# ПАДПОЛЬНЫ ДРУК БЕЛАРУСІ (1942—1944 гг.)




Спецыяльны змест распрацаваў Г. Л. Напрэеў

МАШТАБ 1 : 3 750 000

Падпісана да друку 26.09.89 г.

## „РЭЙКАВАЯ ВАЙНА“ НА АКУПІРАВАНАЙ ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ (1943—1944 гг.)




Спецыяльны змест распрацавалі У. І. Лемяшонак, М. У. Філімоненка

МАШТАБ 1 : 3 750 000

Падпісана да друку 26.09.89 г.

# ПАДПОЛЬНЫЯ КАМСАМОЛЬСКІЯ ОРГАНЫ БЕЛАРУСІ (1941–1944гг.)




Спецыяльны змест распрацаваў Р. М. Шавяла

МАШТАБ 1 : 3 750 000

Падпісана да друку 26.09.89 г.

ПАДПОЛЬНЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ І ГРУПЫ НА АКУПІРАВАНАЙ ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ (1941—1944 гг.)




Спецыяльны змест распрацаваў П. П. Ліпіла

МАШТАБ 1:2 500 000




| | |
|---|---|
| I, II | Абласныя антыфашысцкія камітэты: I Беластоцкі, II Брэсцкі |
| I, II, III | Міжраённыя антыфашысцкія камітэты: I Баранавіцкі, II Беластоцкі, III Брэсцкі |
| △ | Гарадскія антыфашысцкія камітэты: 1 Беластоцкі, 2 Брэсцкі, 3 Гродзенскі, 4 Слонімскі |
| ○ | Раённыя антыфашысцкія камітэты: 1 Бельскі, 2 Бранскі, 3 Бярозаўскі, 4 Васілішкаўскі, 5 Ваўкавыскі, 6 Высокаўскі, 7 Гайнаўскі, 8 Заблудаўскі, 9 Зэльвенскі, 10 Камянецкі, 11 Косаўскі, 12 Крынкаўскі, 13 Лапскі, 14 Маларыцкі, 15 Поразаўскі, 16 Пружанскі, 17 Радунскі, 18 Ружанскі, 19 Саколкаўскі, 20 Свіслацкі, 21 Скідзельскі, 22 Слонімскі, 23 Снядоўскі, 24 Сямяціцкі, 25 Шарашоўскі, 26 Шчучынскі |
| • | Падпольныя арганізацыі і групы ў гарадах і іншых населеных пунктах |

Лічбамі на карце пазначаны населеныя пункты, у якіх таксама дзейнічалі падпольныя арганізацыі і групы

**БАРАНАВІЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

1 Ярэмічы, 2 Бяражна, 3 Чамяры, 4 Азярніца, 5 Сяргеевічы, 6 Вял. Кракотка, 7 Пасінічы, 8 Бярозаўцы

**БРЭСЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

1 Вугляны, 2 Грудавікі, 3 Мікалаева, 4 Бабічы, 5 Кругель, 6 Воля, 7 Радасць, 8 Баранкі, 9 Відамля, 10 Шалічы, 11 Хмелева, 12 Сакалова

**ВІЛЕЙСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

1 Усцінавічы, 2 Забор'е, 3 Каўшэвічы, 4 Навасёлкі, 5 Казлы, 6 Шыпкі

**ВІЦЕБСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

1 Ледневічы, 2 Замасточча, 3 Сімакі, 4 Клюкаўка, 5 Свістуны, 6 Стайкі, 7 Новае Сяло, 8 Межава, 9 Какоўчына

**ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

1 Станькаў, 2 Царахоўка, 3 Лавы, 4 Дняпроўскі, 5 Свержань, 6 Серабранка, 7 Гадзілавічы, 8 Турск, 9 Мастki, 10 Гарадок, 11 Даліна, 12 Бабоўка, 13 Салтанаўка, 14 Стрэшын, 15 Папаратнае, 16 Ровенская Слабада, 17 Пярэдзелка

**МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

1 Пасырава, 2 Тударава, 3 Смятанічы, 4 Гавяды, 5 Вял. Лазіцы, 6 Зацішша, 7 Трылесін, 8 Тудараўка, 9 Лешча, 10 Любінічы, 11 Аўсянка, 12 Харанец, 13 Пабокавічы, 14 Гарбацэвічы

**МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

1 Кандратавічы, 2 Прысынак, 3 Шацілы, 4 Дзяржынск, 5 Станькава, 6 Дабрынёва, 7 Данілавічы, 8 Караваева, 9 Зазер'е, 10 Азярычына, 11 Дудзічы, 12 Крыстамполле, 13 Цытва, 14 Каробавічы, 15 Солан

**ПАЛЕСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

1 Дзянісовічы, 2 Ператок, 3 Хамічы, 4 Гоголеў, 5 Навінкі, 6 Васілевічы

Тэрыторыя Клайпедскай (Мемельскай) вобласці захопленая фашысцкай Германіяй у сакавіку 1939 г.

Граніцы СССР дадзены на 22.06.1941 г., граніцы замежных дзяржаў — на 01.03.1938 г.

МАШТАБ 1:2 500 000

Падпісана да друку 26.09.89 г.

ПАДПОЛЬНЫЯ ОРГАНЫ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ БЕЛАРУСІ (1941—1944 гг.)




Спецыяльны змест распрацаваў Р.М. Шавяла

МАШТАБ 1 : 3 750 000

Падпісана да друку 26.09.89 г.

## ПАДПОЛЬНЫЯ КАМСАМОЛЬСКІЯ ОРГАНЫ БЕЛАРУСІ (1941–1944гг.)




Спецыяльны змест распрацаваў Р.М. Шаўяла

МАШТАБ 1:3 750 000

Падпісана да друку 26.09.89 г

# ВЫЗВАЛЕННЕ БЕЛАРУСІ АД НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ (1943–1944 гг.)




Спецыяльны змест распрацаваў В.Э. Шомадзі

МАШТАБ 1 : 2 500 000




МАШТАБ 1 : 2 500 000

Падпісана да друку 26.09.89 г.

# ВЯЛІКАЯ АЙЧЫННАЯ ВАЙНА САВЕЦКАГА САЮЗА 1941—1945 гг.
## АГУЛЬНЫ ХОД ВАЕННЫХ ДЗЕЯННЯЎ. Студзень 1944 г.—май 1945 г.




МАШТАБ 1 : 15 000 000

Падпісана да друку 26.09.89 г.

# ВЯЛІКАЯ АЙЧЫННАЯ ВАЙНА САВЕЦКАГА САЮЗА 1941—1945гг.
## АГУЛЬНЫ ХОД ВАЕННЫХ ДЗЕЯННЯЎ. 22 чэрвеня 1941г.—23 снежня 1943г.




Падпісана да друку 26.09.89 г.

## ПАРТЫЗАНСКІЯ РЭЙДЫ НА АКУПІРАВАНАЙ ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ (1942—1944 гг.)




Спецыяльны змест распрацавалі У.С. Пасэ, В.С. Лазебнікаў

МАШТАБ 1 : 3 750 000

Падпісана да друку 26.09.89 г.

# ДЫСЛАКАЦЫЯ ПАРТЫЗАНСКІХ ЗЛУЧЭННЯЎ, БРЫГАД І АСОБНЫХ АТРАДАЎ НА АКУПІРАВАНАЙ ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ (чэрвень 1941 г.— ліпень 1944 г.)




Спецыяльны змест распрацаваў А. Л. Манаенкаў

МАШТАБ 1 : 3 750 000

Падпісана да друку 26.09.89 г.

БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# БЕЛАРУСЬ У ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЕ 1941 ★ 1945

## ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

МІНСК
«БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ
1990

ББК 63.3(2Б)722я2
Б 43



В этом издании широко отражены события Великой Отечественной войны, происходившие на территории Белоруссии. Около 3 тысяч статей рассказывают читателям о фронтах и армиях, участвовавших в оборонительных боях за нашу республику и в её освобождении, о крупных военных операциях и сражениях, о видных советских военачальниках, подпольных партийных, комсомольских и антифашистских органах и организациях, партизанских формированиях на оккупированной территории Белоруссии, командирах и комиссарах партизанских бригад. В книге помещено большое количество фотодокументов и иллюстраций.

Энциклопедия будет интересна не только ветеранам, которые, возможно, найдут в статьях и на фотоснимках имена и лица своих друзей и однополчан, но и всем тем, кому дорога память о минувшей войне.

Б $\frac{0503020903-014}{М 318(03)-89}$ 1—89

ISBN 5-85700-012-2

## БЕЛАРУСЬ У ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЕ

Вялікая Айчынная вайна Савецкага Саюза 1941—45 — справядлівая вызваленчая вайна савецкага народа супраць фашысцкай Германіі і яе саюзнікаў. Па сваіх маштабах і жорсткасці гэта вайна не мела сабе роўных у гісторыі. Савецкі народ вёў барацьбу за свабоду і незалежнасць сваёй сацыялістычнай Радзімы, за вызваленне прыгнечаных фашызмам народаў Еўропы, у т. л. і нямецкага народа.

Гітлераўскі фашызм, які выражаў інтарэсы найбольш рэакцыйнага, мілітарысцкага і варожага Савецкай дзяржаве германскага імперыялізму, у вайне супраць СССР ставіў сабе за мэту ліквідаваць сацыяліст. дзяржаву, захапіць яе вял. матэрыяльныя рэсурсы, знішчыць мільёны сав. людзей, а тых, што застануцца жывымі, ператварыць у рабоў германскіх каланістаў. На Беларусі гітлераўцы планавалі знішчыць 75 % насельніцтва.

Напярэдадні вайны ў 1940 у БССР, якая з'яўлялася адной з саюзных рэспублік у складзе адзінай шматнацыянальнай дзяржавы СССР, было 10 абласцей і 188 раёнаў, яе тэрыторыя складала 225,7 тыс. км$^2$, насельніцтва на 22.6. 1941—10 млн. 528 тыс. чал. (у сучасных граніцах 9,2 млн. чал.).

У 1920—30-я гг. ў СССР, у т. л. на Беларусі, ажыццёўлены карэнныя грамадскія пераўтварэнні. Гэта былі гады напружанай працы на мяжы чалавечых магчымасцей, вострай і шматпланавай барацьбы за ажыццяўленне індустрыялізацыі, калектывізацыі, культурнай рэвалюцыі, за новыя формы кіравання эканомікай і ўсім грамадскім жыццём, за ўмацаванне шматнацыянальнай дзяржавы, усталяванне міжнар. пазіцый СССР. Быў пройдзены цяжкі, складаны, поўны супярэчнасцей вял. гераічны шлях. Ні найгрубейшыя памылкі, ні дапушчаныя адступленні ад прынцыпаў сацыялізма не змаглі звярнуць народ і краіну з таго шляху, на які яны сталі, зрабіўшы выбар у 1917. Працоўныя адчулі сябе ўдзельнікамі вял. справы, пачалі карыстацца плёнам сваёй працы. Іх патрыятызм набыў новы, сацыяліст. змест. І гэта з усёй сілай праявілася ў суровых выпрабаваннях Вял. Айч. вайны 1941—45.

Эканоміка БССР развівалася як састаўная частка эканомікі ўсёй Сав. краіны. У 1940 валавая прадукцыя прамысловасці рэспублікі перавысіла ўзровень 1913 у 8,1 раза. У рэспубліцы ў 1929—40 уведзена ў строй і рэканструявана 1863 прадпрыемствы. З ліку дзеючых прадпрыемстваў на 860 з-дах і ф-ках за гэтыя гады была праведзена карэнная рэканструкцыя. Эксплуатацыйная даўжыня чыгунак у рэспубліцы перавысіла ўзровень 1913 у 1,5 раза. У сельскай гаспадарцы ў 1941 ва ўсіх абласцях БССР калектывізавана 93,3 % сялянскіх гаспадарак. Удзельная вага механічных рухавікоў у структуры энергетычных магутнасцей сельскай гаспадаркі склала 48,8 %. На долю грамадскага сектара прыпадала 65 % усіх нарыхтовак збожжа, 46 % бульбы, 23 % мяса, 73 % малака, 77 % ільновалакна. Валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі ў параўнанні з 1913 узрасла ў 1,7 раза. Вытворчасць мяса павялічылася на 31 %, малака — на 40 %, яец — на 48 %, бульбы — у 3 разы.

**Пачатак вайны. Абарончыя баі Чырвонай Арміі на тэрыторыі Беларусі ў чэрвені — жніўні 1941.** Падрыхтоўку да вайны супраць СССР гітлераўцы пачалі яшчэ задоўга да захопу ўлады ў Германіі (1933). З прыходам нацыстаў да ўлады ўсё жыццё было падпарадкавана ваен. мэтам, падрыхтоўцы і развязванню агрэсіўных войнаў. У 1939—41 Германія захапіла амаль усе краіны Зах. Еўропы і паставіла іх эканамічныя і ваен. рэсурсы на службу сваім агрэсіўным мэтам. У адпаведнасці з планам *«Барбароса»* Германія выставіла супраць СССР 153 дывізіі, яе саюзнікі Італія, Румынія, Фінляндыя і Венгрыя —37 дывізій, іх падтрымлівалі 4 паветр. ням. флаты, авіяцыя Фінляндыі і Румыніі; усяго 5,5 млн. чал., 47,2 тыс. гармат і мінамётаў, каля 4300 танкаў і штурмавых гармат, 4980 баявых самалётаў і інш. СССР у 5 ваен. акругах на зах. граніцы меў 170 дывізій і 2 брыгады (каля 2,6 млн. чал.), 37,5 тыс. гармат і мінамётаў, 1457 новых танкаў КВ і Т-34, 1540 баявых самалётаў новых тыпаў (гл. *Узброеныя Сілы СССР*).

Вялікія страты абараназдольнасці краіны былі нанесены сталінскімі рэпрэсіямі супраць ваен. кадраў. Толькі ў 1937—38 было рэпрэсіравана больш за 40 тыс. камандзіраў Чырвонай Арміі. Замест рэпрэсіраваных камандзіраў і палітработнікаў назначаліся маладыя, у якіх не было неабходнага вопыту і ведаў. У выніку напярэдадні вайны толькі 7 % камандзіраў Чырвонай Арміі мелі вышэйшую ваен. адукацыю, а 37 % не прайшлі поўнага курса навучання нават у сярэдніх ваен. навучальных установах. Грубай памылкай І. В. Сталіна была перакананасць, што гітлераўцы ў вайне з Сав. Саюзам будуць імкнуцца ў першую чаргу авалодаць Украінай, Данецкім басейнам, захапіць украінскі хлеб, данецкі вугаль, а затым і каўказскую нафту. Гэта меркаванне не ўлічвала планаў праціўніка на *«маланкавую вайну»* супраць СССР. У сувязі з гэтым Генеральным штабам у аператыўным плане вайны былі закладзены стратэгічныя памылкі. Найбольш небяспечным стратэгічным напрамкам лічыўся

БЕЛАРУСКАЯ ССР, палітыка–адміністрацыйная карта



паўд.-заходні — Украіна, а не заходні — Беларусь, на якім гітлераўскае вярхоўнае камандаванне ў чэрв. 1941 увяло ў дзеянне самыя магутныя сухапутныя і паветр. групоўкі. На тэр. Беларусі напярэдадні і ў пач. вайны былі размешчаны 44 дывізіі (у т. л. 18 танк. і механізаваных) Зах. акругі, у той час як на Украіне — 80 дывізій (у т. л. 30 танк. і механізаваных) у Кіеўскай і Адэскай акругах. Ням. дывізіі налічвалі ад 14 да 16 тыс. чал. У дывізіях Чырвонай Арміі было 8 тыс. і менш чалавек.

На досвітку 22.6.1941 фаш. Германія, вераломна парушыўшы дагавор аб ненападзе, пачала вайну супраць СССР. Вораг меў значную перавагу ў артылерыі і амаль двухкратную ў жывой сіле. Сав. войскі ўступалі ням.-фаш. арміі па аснашчанасці новымі тыпамі танкаў, самалётаў і артылерыі.

Камандаванне германскага вермахта разлічвала знянацку нанесці магутныя рассякаючыя ўдары буйнымі танк. і матарызаванымі сіламі, акружыць і знішчыць галоўныя сілы Чырвонай Арміі, выйсці на лінію Архангельск — Волга і за 1,5—2 месяцы пераможна закончыць вайну. На тэр. Беларусі наступала ням. група армій «Цэнтр» (ген.-фельдмаршал Ф. Бок) — 4-я і 9-я палявыя арміі, 2-я і 3-я танк. групы, усяго 50 дывізій (у т. л. 15 танк. і матарызаваных) і 2 матарызаваныя брыгады. Яе падтрымліваў 2-і паветр. флот — 1600 баявых самалётаў. Іх удар на граніцы прынялі на сябе арміі: 3-я (ген.-лейт. В. І. Кузняцоў), 10-я (ген.-маёр К. Дз. Голубеў) і 4-я (ген.-маёр А. А. Карабкоў). У палосе абароны 4-й арміі вораг меў больш як пяцікратную перавагу ў жывой сіле, амаль трохкратную ў танках, больш як трохкратную ў артылерыі і двухкратную ў авіяцыі. У першы дзень вайны варожая авіяцыя бамбіла чыг. вузлы, аэрадромы, гарады Беласток, Брэст, Гродна, Ваўкавыск, Баранавічы і інш., нанесла цяжкія страты сав. войскам. Адна з груповак праціўніка прарвала абарону сав. войск на ПнУ ад Сувалак, другая — у раёне Брэста.

Гераічна змагаліся пагранічнікі 17-га Брэсцкага, 86-га Аўгустоўскага, 87-га Ломжынскага, 88-га Шапятоўскага пагранічных атрадаў, сав. лётчыкі. У першыя гадзіны вайны лётчыкі П. С. Рабцаў над Брэстам, А. С. Данілаў у раёне Гродна, С. М. Гудзімаў у раёне Пружан таранілі варожыя самалёты. Самаахвярна змагаліся войскі 4-й арміі. 22 чэрв. 235-ы арт. полк 75-й стралк. дывізіі каля Дамачова знішчыў 21 варожы танк і бронетранспарцёр, каля 600 гітлераўцаў, 23 чэрв. на лініі Камянец — Жабінка — Вял. Радванічы разгарнулася танк. бітва супраць ням. войск, у якой удзельнічалі часці 22-й (ген.-маёр В. П. Пуганаў) і 30-й (палк. С. І. Багданаў) танк. дывізій (гл. *Брэста абарона 1941*). Гарнізон Брэсцкай крэпасці амаль месяц упарта супраціўляўся ворагу (гл. *Брэсцкай крэпасці абарона 1941*). У выключна цяжкіх умовах вялі баі ў раёне Гродна і Беластока войскі 10-й і 3-й армій. У раёне Ліды артылерысты 8-й асобнай арт. процітанк. брыгады (палк. І. С. Стральбіцкі) на некалькі дзён затрымалі рух 12-й ням. танк. дывізіі і знішчылі каля 60 танкаў. Неўміручыя подзвігі здзейснілі ў першыя дні вайны экіпаж капітана М. Ф. Гастэлы, капітан А. М. Аўдзееў, ст. лейт. І. З. Прасайзен, лейт. П. П. Страленка — свае падбітыя самалёты



Я. Зайцаў. Абарона Брэсцкай крэпасці ў 1941 годзе. 1950.

яны накіравалі на вял. колькасць варожай тэхнікі. Цяжкія баі разгарнуліся ў раёне Мінска, дзе абарону трымалі 2-і і 44-ы стралк. карпусы 13-й арміі (ген.-лейт. П. М. Філатаў), у т. л. дывізіі 64-я (палк. С. І. Іаўлеў), 100-я ордэна Леніна (ген.-маёр І. М. Русіянаў), 108-я (ген.-маёр А. І. Маўрычаў) і 161-я (палк. А. І. Міхайлаў; гл. *Мінска абарона 1941*). Але сілы былі няроўныя, вечарам 28 чэрв. ням. танкі ўварваліся ў Мінск.

У пач. ліп. 1941 сав. камандаванне прыняло меры па стварэнні лініі абароны па Зах. Дзвіне і Дняпры. Сюды былі перадыслацыраваны арміі: 19-я (ген.-лейт. І. С. Конеў), 20-я (ген.-лейт. П. А. Курачкін), 21-я (ген.-лейт. В. П. Герасіменка), 22-я (ген.-лейт. П. А. Ершакоў). На Бярэзіне ў раёне Барысава абарону трымалі часці Маскоўскай мотастралк. дывізіі (палк. Я. Р. Крэйзер), курсанты Барысаўскага танк. вучылішча і зводная дывізія з воінаў, якія адышлі з раёна Мінска. Тры дні ў Барысаве і ўздоўж шашы Мінск — Масква ішлі цяжкія баі, у якіх з абодвух бакоў удзельнічала да 300 танкаў. 1-я Маскоўская мотастралк. дывізія вяла баі на рубяжах рэк Нача, Бобр, Адроў і інш.; г. п. Талачын 8—9 ліп. двойчы пераходзіў з рук у рукі; вораг страціў каля 60 танкаў, больш за 2 тыс. салдат і афіцэраў. Пад Оршай 14 ліп. ўпершыню ўдзельнічаў у баях дывізіён рэактыўных мінамётаў (капітан І. А. Флёраў). Цяжкія баі разгарнуліся ў раёне Бабруйска за пераправу цераз Бярэзіну, дзе ў адным з баёў праціўнік страціў 20 танкаў. У пачатку ліп. баі разгарнуліся на віцебскім напрамку. 20-я армія сіламі 2 механізаваных корпусаў 6—10 ліп. нанесла контрудар па войсках 3-й танк. групы ворага; 8 ліп. пад канец дня праціўнік быў адкінуты на 30—40 км у напрамку Лепеля (гл. *Лепельскі контрудар 1941*). Прыкрываючы Віцебск, воіны 153-й стралк. дывізіі (палк. М. А. Гаген) падбілі каля 50 ням. танкаў і знішчылі каля 500 гітлераўцаў (гл. *Віцебска абарона 1941*). Разам з сав. войскамі горад абаранялі батальёны нар. апалчэння (гл. *Віцебскае народнае апалчэнне 1941*). Выключна напружаныя баі ішлі на Дняпры, асабліва ў раёне Магілёва, дзе абарону трымалі злучэнні 61-га стралк. корпуса (ген.-маёр Ф. А. Бакунін) 13-й арміі. Магілёў абараняла 172-я дывізія (ген.-маёр М. Ц. Раманаў) і атрады нар. апалчэння (гл. *Магілёва абарона 1941, Магілёўскае народнае апалчэнне 1941, Буйніцкае поле*). Гомельскі напрамак прыкрывала 21-я армія, злучэнні якой упартай абаронай і контрударамі затрымалі гітлераўцаў і прымусілі іх адступіць. 13 ліп. 63-і стралк. корпус (камкор Л. Р. Пятроўскі) нанёс контрудар на Бабруйскім напрамку, фарсіраваў Дняпро, вызваліў Жлобін і Рагачоў (гл. *Рагачоўска-Жлобінская аперацыя 1941*). Цяжкія баі супраць асн. сіл 2-й ням. арміі ішлі 12—19 жн. пад Гомелем (гл. *Гомеля абарона 1941, Гомельскі полк народнага апалчэння*). Да пач. вер. 1941 уся тэр. Беларусі была акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Сав. воінам, якія прабіваліся з варожага акружэння, дапамагаў народ. Цяжкія двухмесячныя абарончыя баі сав. войск на тэр. Беларусі (гл. *Абарончая аперацыя на Беларусі 1941, Смаленская бітва 1941*) садзейнічалі зрыву варожага плана «маланкавай вайны», далі магчымасць Стаўцы Вярх. Галоўнакамандавання сканцэнтраваць рэзервы і правесці абаронныя мерапрыемствы на маскоўскім напрамку.

**Мабілізацыя сіл на адпор ворагу.** Камуністычная партыя і Сав. ўрад 22.6.1941 заклікалі народ даць адпор агрэсару і выказалі цвёрдую ўпэўненасць у перамозе над ворагам. У *дырэктыве СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 29.6.1941 партыйным і савецкім арганізацыям прыфрантавых абласцей* намечана праграма мабілізацыі сіл краіны на барацьбу з ворагам, якую выклаў у выступленні па радыё 3.7.1941 Старшыня Дзяржаўнага к-та абароны І. В. Сталін. Яна заклікала народы СССР згуртавацца вакол Камуніст. партыі і ўзняцца на ўсенар. Айч. вайну супраць фаш. захопнікаў, вызначыла яе справядлівыя мэты. Выконваючы ўказанні ЦК ВКП(б), Кампартыя Беларусі мабілізавала працоўных рэспублікі на адпор ворагу. Работа парт., сав., гаспадарчых і грамадскіх арг-цый перабудоўвалася ў адпаведнасці з задачамі ваен. часу. У чэрв.— жн. 1941 у Чырвоную Армію з Беларусі мабілізавана больш за 500 тыс. чалавек. Па агульнай і парт. мабілізацыі ў дзеючую армію з Беларусі паслана 26,5 тыс. камуністаў і 110 тыс. камсамольцаў (гл. *Мабілізацыя*). Тысячы добраахвотнікаў прасілі накіраваць іх у дзеючыя войскі. Паводле дырэктывы ЦК КП(б)Б ад 23.6.1941 пад кіраўніцтвам парт. арг-цый з непадлеглых прызыву добраахвотнікаў да 15 ліп. для барацьбы з варожымі дыверсантамі і парашутыстамі сфарміравана 78 (больш за 13 тыс. чал.) *знішчальных батальёнаў*. У адпаведнасці з дырэктывай СНК БССР і ЦК КП(б)Б ад 6.7.1941 ва ўсх. абласцях БССР створана больш за 200 фарміраванняў нар. апалчэння (больш як 33 тыс. чал.; гл. *Народнае апалчэнне*). На патрэбы фронту пачалі працаваць прамысловыя прадпрыемствы. Гомельскія з-ды «Гомсельмаш» і «Рухавік рэвалюцыі» наладзілі рамонт баявой тэхнікі і выпуск мінамётаў, лесакамбінат і з-д імя Кірава асвоілі вытворчасць процітанк. мін, запалкавая ф-ка «Везувій» — ручных гранат. Прадукцыю для фронту выпускалі і інш. прадпрыемствы. Парт., сав., грамадскія арг-цыі БССР у складаных умовах праводзілі эвакуацыю ў тыл насельніцтва, матэрыяльных і культурных каштоўнасцей. З БССР было эвакуіравана больш за 1,5 млн. чал., вывезена абсталяванне 124 буйных прадпрыемстваў саюзна-рэспубліканскага падпарадкавання, больш як 17 тыс. адзінак каштоўнага тэхналагічнага абсталявання (гл. *Эвакуацыя*).

**Падзеі на франтах вайны.** Летам і восенню 1941 ням.-фаш. войскі акупіравалі значную частку еўрапейскай тэр. СССР, блакіравалі Ленінград, выйшлі на бліжэйшыя подступы да Масквы, прарваліся да Растова. Але ворагу не ўдалося ажыццявіць асноўны стратэгічны план — разбіць Чырвоную Армію і захапіць Маскву. У цяжкіх баях Сав. Узброеныя Сілы нанеслі ням.-фаш. войскам вял. страты і захавалі сваю баяздольнасць. Быў выйграны час і створаны ўмовы для пераходу ў контрнаступленне, якое пачалося

5—6.12.1941 пад Масквой і перарасло ў агульнае зімовае наступленне 1941—42 на фронце ад Ленінграда да Чорнага мора. У выніку Чырвоная Армія адкінула ворага на 150—400 км, на Віцебскім напрамку наблізілася да граніцы БССР (гл. *Маскоўская бітва 1941—42*). У бітве пад Масквой сав. войскі ўпершыню ў 2-й сусветнай вайне нанеслі цяжкае паражэнне ням.-фаш. арміі і развеялі міф аб яе непераможнасці. Гітлераўскі план «маланкавай вайны» быў канчаткова сарваны, у ворага вырвана стратэгічная ініцыятыва, адбыўся рашучы паварот ваен. падзей на карысць СССР. Скарыстаўшы адсутнасць 2-га фронту ў Еўропе, ням. камандаванне летам 1942 сканцэнтравала на поўдні вял. сілы і 28—30.6.1942 пачало наступленне з мэтай акружыць і разбіць на З ад Дона сав. войскі, прарвацца да Волгі, развіць наступленне на Паўн. Каўказ і ў выніку дамагчыся пералому ў вайне на сваю карысць. Пасля цяжкіх абарончых баёў войскі Чырвонай Арміі 19.11.1942 пачалі контрнаступленне пад Сталінградам, акружылі і знішчылі асн. сілы 6-й і 4-й танк. ням. армій (330 тыс. чал.). У час *Сталінградскай бітвы 1942—43* вораг страціў каля 1,5 млн. чал., разгромлены 2 ням., 2 румынскія, 1 італьянская арміі. Перамога пад Сталінградам з'явілася пачаткам карэннага пералому ў ходзе Вял. Айч. і 2-й сусветнай войнаў. Пачалося масавае выганне акупантаў з сав. зямлі. У зімнюю кампанію 1943 Чырвоная Армія адкінула праціўніка ад Волгі і Церака на 600—700 км, вызваліла Паўн. Каўказ, Варонежскую, Сталінградскую, Растоўскую вобл., значную частку Данбаса, Харкаўскай, Курскай, Арлоўскай, Смаленскай абласцей, прарвала блакаду Ленінграда. Каб вярнуць стратэгічную ініцыятыву, ням.-фаш. войскі пачалі 5.7.1943 наступленне ў раёне Курска. Сав. войскі наўмыснай абаронай абяскровілі ўдарныя групоўкі ням. войск і перайшлі ў контрнаступленне. Перамога Чырвонай Арміі ў *Курскай бітве 1943* (разгромлена 30 дывізій, вораг страціў каля 500 тыс. чал.) азначала крах наступальнай стратэгіі ням. вярхоўнага камандавання і завяршэнне карэннага пералому ў Вял. Айч. вайне. У 1943 Чырвоная Армія вызваліла амаль 2/3 акупіраванай сав. тэрыторыі, ням.-фаш. войскі вымушаны былі перайсці да стратэгічнай абароны па ўсім фронце.

На франтах Айч. вайны ў Чырвонай Арміі разам з сынамі і дочкамі ўсіх сав. народаў змагалася больш за 1,3 млн. беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі. У баях пад Масквой вызначыліся Л. М. Даватар, А. І. Лізюкоў, Г. А. Палаўчэня, П. Ф. Сычэнка і інш. Пад Ленінградам снайпер Ф. А. Смалячкоў знішчыў 125 фашыстаў. У Сталінградскай бітве праславіліся А. Я. Вашчанка, які 5.9.1942 закрыў сваім целам амбразуру дзота, Ф. Я. Макавецкі, А. І. Пастрэвіч, М. П. Сыдзько, І. Я. Сяржантаў і інш. У адным з баёў на Курскай дузе лётчык А. К. Гаравец збіў 9 варожых самалётаў. З. М. Тусналобава-Марчанка вынесла з поля бою 128 параненых. 2.11.1944 П. І. Купрыянаў у баі за вызваленне Латвіі закрыў сваім целам



М. Савіцкі. Поле. 1974.

амбразуру дзота, што дазволіла падраздзяленню выканаць баявую задачу. Беларусь дала Радзіме шмат праслаўленых военачальнікаў, сярод іх В. Е. Ананыч, А. І. Антонаў, І. І. Гусакоўскі, Е. У. Дабравольскі, В. П. Дрозд, І. П. Камера, С. А. Красоўскі, Ф. А. Асташэнка, В. А. Пяньkoўскі, М. К. Пуцейка, У. П. Свірыдаў, В. Д. Сакалоўскі, А. Дз. Церашкоў, І. І. Якубоўскі і інш. 217 генералаў і адміралаў беларусаў у час вайны камандавалі вайсковымі злучэннямі. За геразм і мужнасць, праяўленыя ў Вял. Айч. вайну, 300 тыс. воінаў-беларусаў і ўраджэнцаў рэспублікі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі, 441 чал. прысвоена званне Героя Сав. Саюза (гл. *Герой Савецкага Саюза*), 65 чал.— поўныя кавалеры ордэна Славы. Лётчыку П. Я. Галавачову, камандзірам танк. злучэнняў І. І. Гусакоўскаму, С. Ф. Шутаву, І. І. Якубоўскаму званне Героя Сав. Саюза прысвоена двойчы.

**Усенародная барацьба ў тыле ворага.** На захопленай ворагам тэр. ва ўмовах жорсткага *акупацыйнага рэжыму* разгарнулася ўсенар. барацьба супраць акупантаў. На Беларусі, як і ў іншых захопленых раёнах краіны, фашысты праводзілі распрацаваную імі праграму асваення гэтых акупіраваных тэрыторый (гл., напр., *Аграрная палітыка*), састаўной часткай якой былі чалавеканенавісніцкія планы масавага знішчэння сав. людзей. На тэр. Беларусі гітлераўцы стварылі больш за 260 *лагераў смерці*, правялі больш як 140 буйных *карных аперацый*, знішчалі вёскі разам з насельніцтвам, цэлыя раёны ператварылі ў «зоны пустынь» (гл. *Населеныя пункты Беларусі, знішчаныя разам з жыхарамі ў 1941—44 нямецка-фашысцкімі захопнікамі*). За час акупацыі ням.-фаш. захопнікі знішчылі на Беларусі больш за 2 млн. 200 тыс. сав. грамадзян (у т. л. ваеннапалонных), вывезлі на катаржныя работы ў Германію каля 380 тыс. чал.

Гераічную ўсенар. барацьбу бел. народа супраць ням.-фаш. захопнікаў узначаліла *Камуністычная партыя Беларусі* — баявы атрад КПСС. У адпаведнасці з дырэктывай СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 29.6.1941 парт. і сав. арганізацыям прыфрантавых абласцей былі прыняты *дырэктыва ЦК КП(б)Б ад 30.6.1941 аб падрыхтоўцы да пераходу на падпольную работу партарганізацый раёнаў, якія знаходзіліся пад пагрозай фашысцкай акупацыі*, і *дырэктыва ЦК КП(б)Б ад 1.7.1941 партыйным, савецкім і камсамольскім арганізацыям па разгортванню партызанскай вайны ў тыле ворага.* Пад кіраўніцтвам *Цэнтральнага Камітэта КП(б)Б* абкомы і райкомы партыі ў ліп.— жн. 1941 на неакупіраванай тэр. БССР вялі падрыхтоўку да падп. і партыз. барацьбы. ЦК і абкомы КП(б)Б пакінулі на месцах для арганізацыі падполля і партыз. барацьбы 1215 камуністаў; стварaліся абл. і раённыя парт. к-ты, цэнтры, тройкі, усяго ў 1941 на акупіраванай тэр. было пакінута каля 8 тыс. камуністаў. Асноўную ролю ў развіцці парт. падполля і разгортванні партыз. руху сыграла *пастанова ЦК ВКП(б) ад 18.7.1941 «Аб арганізацыі барацьбы ў тыле германскіх войск»*. У 1941 на акупіраванай тэр. БССР дзейнічалі ў падполлі 3 абл., 2 гар. і 20 раённых к-таў КП(б)Б. Пад кіраўніцтвам КП(б)Б стваралася камсамольскае падполле. У 1941 у варожым тыле працавалі 2 падп. абкомы, 2 гаркомы і 15 райкомаў ЛКСМБ. Хуткае наступленне ворага перашкодзіла належным чынам падрыхтавацца да падп. дзейнасці. Асноўная работа па арганізацыі парт., камсамольскага, патрыятычнага падполля і партыз. руху вялася ва ўмовах акупацыі. Усяго ў гады Вял. Айч. вайны на Беларусі дзейнічала 10 падп. абкомаў, 193 міжрайкомы, міжрайпартцэнтры, гаркомы і райкомы КП(б)Б, больш за 1200 пярвічных парт. арг-цый у партыз. атрадах і брыгадах, 184 тэрытарыяльныя парт. арг-цыі, якія аб'ядноўвалі больш як 35 тыс. камуністаў [гл. *Партыйнае падполле, Абласныя падпольныя камітэты КП(б)Б, Міжраённыя падпольныя камітэты КП(б)Б, Міжраённыя падпольныя партыйныя цэнтры, Гарадскія - падпольныя камітэты КП(б)Б, Раённыя падпольныя камітэты КП(б)Б*]. Парт. органы накіроўвалі дзейнасць 10 падп. абкомаў, 214 міжрайкомаў, міжрайцэнтраў, гаркомаў і райкомаў ЛКСМБ, больш за 5500 пярвічных арг-цый, каля 100 тыс. камсамольцаў (гл. *Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі Беларусі, Камсамольска-маладзёжнае падполле*). *Антыфашысцкія арганізацыі* налічвалі больш за 12 тыс. чалавек. Падпольшчыкі, аб'яднаныя ў парт., партыйна-камсамольскія, камсамольска-маладзёжныя, антыфаш. арг-цыі і групы згуртоўвалі ў сваіх радах больш за 70 тыс. чал.— камуністаў, камсамольцаў, беспарт. патрыётаў.

У авангардзе барацьбы, якую ўзначальвалі камуністы, выступаў рабочы клас. У ліку першых барацьбу супраць акупантаў разгарнула *Мінскае партыйнае падполле.* Буйным яго цэнтрам з'яўляўся Мінскі чыг. вузел. Тут ужо ў ліп.— жн. 1941 узнікла некалькі падп. груп, якія пазней аб'ядналіся ў падп. арг-цыю. Ядро яе складалі камуністы, што ўваходзілі ў самастойную парт. арг-цыю, якая ахоплівала сваім уплывам і ўзначальвала барацьбу рабочых і служачых паравознага дэпо, пасажырскай і таварнай станцый, іншых транспартных службаў. Шэраг арг-цый і груп у горадзе быў створаны парт. і сав. работнікамі, выкладчыкамі ВНУ, урачамі, ваеннаслужачымі. У стварэнні Мінскага падполля вял. ролю адыгралі старыя камуністы А. Ф. Арндт, Е. М. Баранаў, М. І. Думбра, І. І. Матусевіч, Л. Я. Адзінцоў, С. К. Амельянюк, А. Ф. Орсік, І. І. Русовіч, С. В. Сержановіч, М. І. Талкачоў і інш. Да канца 1941, па няпоўных звестках, у горадзе і наваколлі дзейнічала больш за 50 арг-цый і груп, у склад якіх уваходзіла больш за 2 тыс. чалавек. У канцы ліст. 1941 на нарадзе прадстаўнікоў парт. груп быў створаны агульнагар. парт. цэнтр — *Мінскі падпольны гарком КП(б)Б.* У яго склад увайшлі К. Дз. Грыгор'еў, В. С. Жудро, С. І. Заяц (Зайцаў), І. К. Кавалёў, І. П. Казінец, В. К. Нікіфараў, Г. М. Сямёнаў і інш. У сак.— крас. 1942 карныя органы фашыстаў правялі ў Мінску масавыя арышты падпольшчыкаў. Былі пакараны смерцю 279 патрыётаў, у т. л. 28 кіраўнікоў

і актыўных удзельнікаў падполля, сярод іх С. І. Заяц (Зайцаў), І. П. Казінец, Г. М. Сямёнаў. У маі 1942 на нарадзе актыву партарганізацыі горада ў склад падп. гаркома былі дадаткова выбраны У. С. Амельянюк, Дз. А. Караткевіч, пазней К. І. Хмялеўскі. Пад кіраўніцтвам гаркома ў маі — вер. 1942 дзейнічалі Варашылаўскі, Чыгуначны, Кастрычніцкі, Сталінскі і Тэльманаўскі гар. райкомы партыі. У 1942 гарком і райкомы КП(б)Б кіравалі барацьбой больш як 100 падп. арг-цый і груп, больш за 3200 камуністаў, камсамольцаў, беспарт. патрыётаў; гарком выдаваў сваю газ. *«Звязда»*, якая шырока распаўсюджвалася ў горадзе, перапраўлялася ў партыз. атрады, у многія населеныя пункты Беларусі (гл. ў арт. *Друк падпольны*). У вер.— кастр. 1942 акупанты нанеслі новы цяжкі ўдар па падполлю. Былі кінуты ў фаш. засценкі ўсе члены гаркома, сакратары гар. райкомаў партыі, сотні падпольшчыкаў. Але барацьба падпольшчыкаў не спынялася. Яна разгортвалася ўсё шырэй. У канцы вер. 1943 ЦК КП(б)Б па прапанове Мінскага абкома КП(б)Б зацвердзіў новы склад гаркома. У яго ўвайшлі С. К. Ляшчэня, Г. М. Машкоў і І. П. Паромчык (сакратары), потым у якасці членаў гаркома ў яго ўведзены С. А. Ваўпшасаў, М. М. Ізюмскі, І. М. Родзін і А. Дз. Сакевіч. Гарком размяшчаўся ў партыз. зоне, падтрымліваў цесную сувязь з падп. арг-цыямі і групамі ў горадзе, кіраваў іх баявой, паліт. работай, забяспечваў літаратурай, узрыўчаткай, выдаваў газ. *«Минский большевик»*, накіроўваў дзейнасць разгалінаванага *Мінскага камсамольска-маладзёжнага падполля.* Усяго ў складзе Мінскага падполля змагалася з ворагам больш за 9 тыс. чал., у т. л. 1025 камуністаў і 2044 камсамольцы. Многія з іх узнагароджаны ордэнамі і медалямі; І. К. Кабушкін, І. П. Казінец, М. А. Кедышка, Я. У. Клумаў, А. Р. Мазанік, У. С. Амельянюк, М. Б. Осіпава, Н. В. Траян удастоены звання Героя Сав. Саюза.

У *Віцебскім партыйна-камсамольскім падполлі* дзейнічала 66 груп. У ліку першых былі створаны групы А. Я. Белахвосцікава, Л. Дз. Бярозкінай, В. А. Вярбіцкага, У. А. Казлоўскага, В. С. Кулагінай, Ф. К. Мехава, М. Я. Нагібава, К. С. Акало-



У. Хрусталёў. Канстанцін Заслонаў. 1950.

віч, П. С. Смірнова, Е. С. Спірыдонавай і інш. У кастр. 1942 у Віцебск для кіраўніцтва падп. барацьбой прыбыла група В. З. Харужай, якая правяла тут вял. работу. Гітлераўцы схапілі і пасля катаванняў у снеж. 1942 пакаралі смерцю мужную патрыётку і інш. падпольшчыкаў. Барацьбу патрыётаў Оршы, якая разгарнулася з ліп. 1941, накіроўваў парт. цэнтр у складзе Л. Н. Анкіновіча, А. Ц. Скаварады, А. Г. Шкабарына. Да канца 1941 у Оршы было створана і дзейнічала больш за 20 груп, а за ўвесь перыяд акупацыі ў горадзе і раёне з ням.-фаш. захопнікамі змагалася каля 80 груп. Асабліва актыўна дзейнічалі групы Дз. М. Бохана, братоў А. І., Б. І., І. І. і К. І. Бляўсўскіх, І. Ф. Голуба, К. У. Грачыхі, Ф. Я. Коўтуна, М. П. Кузьміна, З. М. Шэвень (гл. *Аршанскае партыйна-камсамольскае падполле*). Слаўнай старонкай у гісторыю Аршанскага падполля ўвайшла дзейнасць К. С. Заслонава. У сваёй рабоце ён апіраўся на А. Я. Андрэева, С. І. Чэбрыкава, П. У. Шурміна, якія прыбылі з ім. Пад кіраўніцтвам *Гомельскага падпольнага гаркома КП(б)Б* актыўна змагалася з ворагам *Гомельскае партыйнае падполле*, якое да лета 1943 аб'ядноўвала звыш 40 груп, больш за 400 чалавек. Адчувальныя страты ворагу наносілі падп. групы Ц. В. Блінкова, Ц. С. Барадзіна, А. Ц. Брыкса, Ф. С. Вароніна, Л. І. Дзегірэўскага, М. Д. Жызнеўскага, Е. І. Каленікава, Р. М. Каралёва, М. В. Піваварава, Р. І. Цімафеенкі, І. Б. Шылава і інш. Значную ролю ў ажыццяўленні кіраўніцтва падполлем адыграў Гомельскі нелегальны аператыўны цэнтр на чале з Ц. С. Барадзіным. У Магілёве першыя падп. групы створаны ў жн.— вер. 1941 (гл. *Магілёўскае партыйна-камсамольскае падполле*). Расшырэнне сеткі падп. груп, наладжванне сувязей паміж імі вясной 1942 прывялі да аб'яднання многіх з іх у агульнагар. арг-цыю «Камітэт садзеяння Чырвонай Арміі» на чале з К. Ю. Мэтэ. У яго кіруючае ядро ўвайшлі таксама кіраўнікі найбольш буйных падп. груп: А. В. Гарошка, І. Г. Гурыеў, П. І. Крысевіч, М. П. Куўшынаў, В. Л. Лусцянкоў, А. І. Рослаў, У. П. Харытонаў, С. М. Шакура, В. Дз. Швагрынаў, У. П. Шалюта, А. І. Шубадзёраў і інш. Арг-цыя выдавала падп. газ. *«За Советскую Родину»*. З першых дзён акупацыі разгарнулася барацьба супраць захопнікаў у Барысаве. Пачаткам стварэння *Барысаўскага партыйна-патрыятычнага падполля* стала арганізатарская група на чале з сакратаром Барысаўскага РК КП(б)Б І. А. Ярашам, якая ў ліп. 1941 прыбыла па заданню



У. Сухаверхаў. За родную Беларусь. 1948.

ЦК КП(б)Б з-за лініі фронту. Актыўна дзейнічалі групы П. М. Вусціна, І. П. Даўгалава і У. У. Лазоўскага, Б. П. Качана, Г. І. Куліковай, Д. І. Лебедзева, У. У. Ляшкевіча, І. Л. Піваварава, А. Ф. Самарадава, б. ваеннаслужачых С. М. Ігумнава, П. В. Яхантава і інш., да канца 1942— больш за 20 груп. З ліп. 1941 дзейнічала *Бабруйскае партыйна-камсамольскае падполле*. Падп. групы тут узначальвалі М. Р. Баглай, П. С. Вашукевіч, А. К. Калеснікаў і Я. І. Савацееў, В. С. Калеснікаў, С. З. Крамнёў, Д. М. Лемяшонак, В. І. Лівенцаў, П. Ф. Маслёнак і В. І. Бутараў, П. М. Сцяржанаў, І. В. Стомаў, А. М. Сумбаеў, І. А. Хімічаў, К. М. Якаўлеў і інш. Усяго ў горадзе і раёне падполле аб'ядноўвала 29 груп, больш за 500 патрыётаў, з іх 236 камуністаў і камсамольцаў. У студз. 1942 па ініцыятыве кіраўнікоў падп. груп В. І. Бутарава, Д. М. Лемяшонка, М. І. Сямісалава створаны цэнтр па кіраўніцтву барацьбой патрыётаў — Бабруйскі к-т партыз. руху. Баявымі справамі праславіліся падпольшчыкі Жлобіна, Калінкавіч, Мазыра, Асіповіч, Полацка, Обалі, Расонаў і інш. ласцях Беларусі. Сярод іх баявітасцю вызначаліся *Брэсцкая абласная антыфашысцкая арганізацыя* і *Баранавіцкая акруговая антыфашысцкая арганізацыя*, першая з якіх аб'ядноўвала да 2 тыс. падпольшчыкаў, мела скрыты партыз. рэзерв да 9 тыс. чал., яе к-т выдаваў газ. *«За Родину»*. Антыфаш. арг-цыі дзейнічалі ў Браслаўскім, Ваўкавыскім, Гродзенскім, Докшыцкім, Куранецкім, Міёрскім, Мядзельскім, Пастаўскім, Скідзельскім, Смаргонскім, Шаркаўшчынскім і інш. р-нах. Шырокая сетка тэрытарыяльных падп. арг-цый і груп ахоплівала практычна ўсю Беларусь. Падп. парт., камсам., антыфаш. органы і арг-цыі адыгралі гал. ролю ў разгортванні партыз. руху, усенар. барацьбы супраць ням.-фаш. захопнікаў. Падпольшчыкі цесна супрацоўнічалі з партызанамі.

Паводле сацыяльна-паліт. зместу партыз. рух з самага пачатку быў усенародным. У партызаны ішлі рабочыя, калгаснікі, інтэлігенцыя, партыйныя і беспартыйныя, мужчыны і жанчыны, людзі розных нацыянальнасцей і ўзростаў. Значную праслойку ў партыз. атрадах складалі байцы,



А. Мазалёў. У партызанскім штабе. 1958.

гарадоў і вёсак рэспублікі. Выдатнае месца ў гісторыі падп. барацьбы належыць масавым антыфашысцкім арганізацыям і групам, якія дзейнічалі пад кіраўніцтвам парт. органаў у зах. аб- камандзіры, палітработнікі Чырвонай Арміі, якія па розных прычынах аказаліся на акупіраванай тэрыторыі. У ліку першых пачалі дзейнічаць партыз. атрады: «Камарова» (В. З. Каржа, гл. ў арт.

*Партызанская брыгада імя С. М. Будзённага*), «Чырвоны Кастрычнік» (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 123-я Акцябрская імя 25-годдзя БССР*), М. П. Шмырова (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 1-я Беларуская*), «Бальшавік» (гл. ў арт. *Партызанская брыгада «Бальшавік»*), А. І. Далідовіча (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 25-я імя П. К. Панамарэнкі*), «Радзіма» (гл. ў арт. *Партызанская брыгада імя А. Ф. Данукалава*), В. Ц. Меркуля (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 101-я імя Аляксандра Неўскага*), М. А. Нарчука (гл. ў арт. *Партызанскі атрад 124-ы Касцюковіцкі*), А. Дз. Сяргеева і М. П. Пакроўскага (гл. ў арт. *Партызанскі полк 208-ы імя І. В. Сталіна*), І. А. Яраша (гл. ў арт. *Партызанскі атрад І. А. Яраша*), Клічаўскі (гл. ў арт. *Партызанскі полк 277-ы*) і інш. 6.8.1941 Ц. П. Бумажкову і Ф. І. Паўлоўскаму першым з сав. партызан прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Партыз. рух у перыяд станаўлення перажываў значныя цяжкасці, асабліва з наступленнем зімы 1941—42. Не хапала зброі, боепрыпасаў, медыкаментаў, не было вопыту барацьбы з моцным ворагам. З аддаленнем лініі фронту ўскладнялася сувязь з кіруючымі цэнтрамі.

Вялікі ўплыў на развіццё партыз. руху мела гіст. перамога Чырвонай Арміі пад Масквой. У 1942 ЦК КП(б)Б накіраваў у многія акупіраваныя раёны БССР групы парт. работнікаў. У сав. тыле ў спец. школах, на зборах (у т. л. ў *Школе ЦК КП(б)Б і аператыўна-навучальным цэнтры*, на *Асобым беларускім зборы*, у *«Беларускай школе»*) рыхтавалі і засылалі ў акупіраваныя раёны кіраўнікоў парт., камсам. падполля і партыз. руху, дыверсійныя групы, атрады; наладжваліся надзейная сувязь з партызанамі, забеспячэнне іх матэрыяльна-тэхнічнымі сродкамі (гл. *Дапамога савецкага тылу партызанам* Беларусі). Важную ролю ў ажыццяўленні гэтых мерапрыемстваў адыграла *Паўночна-Заходняя аператыўная група ЦК КП(б)Б*. Ва ўмовах нарастання масавага партыз. руху пашырылася сетка парт. падполля, ствараліся новыя падп. парт. органы. У зах. абласцях БССР развівалася сетка антыфашысцкіх арганізацый. Партызанскія атрады аб'ядноўваліся ў *партызанскія брыгады* і *партызанскія злучэнні* (гл. таксама *Партызанскія фарміраванні, Партызанскі полк, Партызанская група*), што сведчыла пра масавасць і рост баявых сіл партыз. руху, паляпшэнне кіраўніцтва ім з боку ЦК КП(б)Б, падп. парт. органаў. У маі 1942 ЦК КП(б)Б зацвердзіў адзіны тэкст *Прысягі беларускага партызана*. Першыя брыгады ўзніклі ў Віцебскай і Мінскай абласцях. У чэрв. 1942 іх было 12, а да канца года —53. У выніку ўзмацніліся ўдары па ням.-фаш. захопнікам. Патрыёты вызвалялі цэлыя раёны, дзе аднаўлялі Сав. ўладу.

З мэтай цэнтралізацыі кіраўніцтва партыз. сіламі ў маі 1942 створаны *Цэнтральны штаб партызанскага руху* (ЦШПР) пры Стаўцы ВГК на чале з 1-м сакратаром ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнкам. Пад яго кіраўніцтвам дзейнічалі рэсп. і абл. штабы партыз. руху, у т. л. з вер.— кастр. 1942 *Беларускі штаб партызанскага руху* (БШПР) пад кіраўніцтвам 2-га сакратара ЦК КП(б)Б П. З. Калініна. Гэта дало магчымасць партыі накіраваць барацьбу партызан на аказанне максімальнай дапамогі Чырвонай Арміі, якая летам і восенню 1942 гераічна і напружана стрымлівала наступленне ням.-фаш. войск на паўд. участку сав.-германскага фронту, узмацніць удары ў тыле ворага, асабліва на камунікацыях. У жн. 1942 ЦК КП(б)Б звярнуўся да партызан з пісьмом «Аб актывізацыі дзеянняў партыз. атрадаў у тыле ворага», у якім заклікаў усімі сродкамі зрываць перавозкі на фронт рэзерваў ворага. Летам і восенню 1942 партызаны ўзмацнілі ўдары на чыг. магістралях Беларусі. Усё часцей аперацыі праводзілі сіламі цэлых атрадаў і брыгад. У жн. 1942 партызаны брыгады «За Савецкую Беларусь» Віцебскай вобл. знішчылі 110-метровы мост цераз р. Дрыса на чыгунцы Полацк — Даўгаўпілс (гл. *Дрысенская аперацыя 1942*). Партызаны злучэння атрадаў «Дзядзькі Сашы» Магілёўскай вобл. разграмілі ням.-фаш. гарнізон на ст. Слаўнае на чыгунцы Мінск — Орша (гл. *Слаўненская аперацыя 1942*). Група атрадаў Мінскай і Палескай абл. узарвала 150-метровы мост цераз р. Пціч на чыгунцы Брэст — Гомель (гл. *Пціцкая аперацыя 1942*).

Далейшыя задачы барацьбы ў варожым тыле вызначыла нарада кіраўнікоў парт. падполля, камандзіраў і камісараў партыз. атрадаў і злучэнняў, скліканая ЦК ВКП(б) у канцы жн.— пач. вер. 1942 у Маскве. 5.9.1942 падпісаны загад наркома абароны СССР Сталіна «Аб задачах партызанскага руху». 14.11.1942 у газ. «Правда» быў надрукаваны перадавы арт. «За ўсенародны партызанскі рух!». V Пленум ЦК КП(б)Б (Масква, 26—28.2.1943), у рабоце якога ўдзельнічалі сакратары падп. абкомаў і райкомаў КП(б)Б, камандзіры і камісары партыз. брыгад і атрадаў, абавязаў парт. арг-цыі пашырыць і арганізацыйна ўмацаваць партыз. рух, разгарнуць усенар. вайну на ўсёй тэр. Беларусі. У чэрв. 1943 ЦК КП(б)Б прыняў пастанову «Аб далейшым разгортванні партызанскага руху ў заходніх абласцях Беларусі» і накіраваў у парт. арг-цыі пісьмо «Аб ваенна-палітычных задачах работы ў заходніх абласцях БССР». З усх. у зах. вобласці Беларусі накіроўваліся вопытныя парт. работнікі і арганізатары партыз. руху, партыз. атрады і брыгады. За 1943 (паводле няпоўных звестак БШПР) партыз. фарміраванні папоўніліся на 96 тыс. чал., больш за 85 % з іх — мясцовае насельніцтва. Часта ў партызаны ішлі сем'ямі і нават цэлымі вёскамі.

Усяго на акупіраванай тэр. Беларусі гераічна змагаліся з ворагам 374 тыс. партызан; створаны і дзейнічалі 1255 партыз. атрадаў, з іх 258 асобна дзейных, астатнія аб'яднаны ў 213 брыгад [гл. карту «Дыслакацыя партызанскіх злучэнняў, брыгад і атрадаў Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны (чэрвень 1941 — ліпень 1944 г.)», пра кожную партыз. брыгаду і асобна дзейны атрад гл. асобныя артыкулы]. Ва ўсіх партыз. атрадах і брыгадах дзейнічалі пярвічныя парт. і камсам. арг-цыі. Амаль усе брыгады мелі радыёстанцыі і падтрымлівалі рэгулярную радыёсувязь з ЦК КП(б)Б, ЦШПР, БШПР і іх аператыўнымі групамі

пры ваен. саветах франтоў. Атрады і брыгады мелі арганізаваныя рэзервы, якія безупынна папаўняліся мясцовым насельніцтвам. Жыхары многіх населеных пунктаў, якія былі вызвалены партызанамі ад ворага, аб'ядноўваліся ў рэзервовыя атрады ці дружыны. За гады вайны на баявым уліку ў партыз. атрадах і брыгадах было амаль 400 тыс. чал. рэзерву (гл. *Партызанскія рэзервы*). У сувязі з колькасным ростам нар. мсціўцаў востра паўстала праблема ўзбраення і ваен. падрыхтоўкі асабовага складу партыз. атрадаў. Ва ўсіх падраздзяленнях партызаны вывучалі зброю, падрыўную і сан. справу, аналізавалі вынікі баявых аперацый. Адной з важнейшых крыніц папаўнення зброі і боепрыпасаў былі ваен. трафеі. Здабываць зброю дапамагала насельніцтва, якое перадавала партызанам вінтоўкі, аўтаматы, кулямёты, патроны, гранаты, снарады, знойдзеныя на месцах былых баёў. У атрадах і брыгадах ствараліся майстэрні па рамонце і вырабе зброі. Практыкавалася выплаўка толу з мін і снарадаў.

У 1943 сістэматычны характар набыла адпраўка партызанам Беларусі баявых грузаў з сав. тылу. Самалёты рэгулярна дастаўлялі на *партызанскія аэрадромы* і пасадачныя пляцоўкі зброю, боепрыпасы, медыкаменты, літаратуру, людзей, якіх накіроўвалі з заданнямі ў варожы тыл; зваротнымі рэйсамі вывозілі параненых, жанчын, дзяцей, старых. Рост узбраення, удасканаленне ваен. майстэрства партызан садзейнічалі павышэнню баяздольнасці атрадаў і брыгад, эфектыўнасці іх баявых дзеянняў. Барацьба партызан Беларусі ў 1943 набыла вял. размах, вялася мэтанакіравана, актыўна і арганізавана, мела манеўраны і наступальны характар. Буйныя аперацыі на вял. тэрыторыі ўзгадняліся з дзеяннямі Чырвонай Арміі, мелі стратэгічнае значэнне. Асноўныя ўдары партызаны наносілі па варожых камунікацыях, пераважна на чыгунках.

Грандыёзныя маштабы набылі баявыя дзеянні партызан у *«рэйкавай вайне»* — адначасовым масавым разбурэнні варожых чыг. камунікацый у час наступлення Чырвонай Арміі. Партызаны кантралявалі многія шасэйныя і амаль усе грунтавыя дарогі. Яны сарвалі спробы акупантаў выкарыстаць для ваен. перавозак суднаходныя рэкі: паралізавалі рух параходаў і барж па Зах. Дзвіне, Сожы, Дняпры, Прыпяці, Бярэзіне; у 1943 партызаны Пінскай і Брэсцкай абласцей вывелі са строю Днепроўска-Бугскі канал (гл. *Днепроўска-Бугская аперацыя 1943*). Найважнейшым відам барацьбы з акупантамі было знішчэнне варожых



С. Раманаў. Вясна ў партызанскай зоне. 1981.

гарнізонаў (гл. *Гарнізоны нямецка-фашысцкія*). У ходзе 2-га перыяду Вял. Айч. вайны партызаны Беларусі разграмілі і нанеслі адчувальныя ўдары больш як па 600 фаш. гарнізонах. Да канца 1943 яны ўтрымлівалі і кантралявалі каля 60% акупіраванай тэр. Беларусі. Тут існавалі *партызанскія зоны* — апорныя базы ўсенар. барацьбы,

плацдармы, з якіх нар. мсціўцы наносілі ўдары па ворагу (гл. таксама арт. *Партызанскі гарнізон, Партызанскі лагер*). На вызваленай і кантралюемай партызанамі тэрыторыі патрыёты стварылі больш за 20 партыз. зон, у т. л. Акцябрска-Любанскую, Барысаўска-Бягомльскую, Клічаўскую, Полацка-Лепельскую, Івянецка-Налібоцкую. Вял. значэнне надавалася *партызанскім рэйдам*, якія праводзіліся для дэзарганізацыі тылу ворага, актывізацыі і ўзмацнення ўсенар. барацьбы ў глыбінных раёнах рэспублікі.

Магутны партыз. рух на Беларусі падрываў і разладжваў тыл ням.-фаш. войск, трымаў акупантаў у страху і напружанні. Захопнікі рабілі ўсё, каб ліквідаваць партыз. рух. Толькі ў 1943 супраць партызан і насельніцтва Беларусі яны правялі дзесяткі буйных карных аперацый. Пад відам барацьбы з партызанамі карнікі знішчалі грамадзянскае насельніцтва — старых, жанчын, дзяцей, рабавалі гарады і вёскі. Партызаны бралі пад ахову населеныя пункты, ратавалі жыхароў ад знішчэння, зрывалі спробы гітлераўцаў арганізаваць масавы вываз сав. людзей на катаржныя работы ў фаш. Германію. Тактыкай манеўравання з нанясеннем нечаканых udараў па войсках карнікаў нар. мсціўцы зрывалі планы ворага.

Каб абараніць насельніцтва ў час уборкі ўраджаю, толькі ў Мінскай і Магілёўскай абласцях партызаны правялі ў жн. 1943 каля 100 буйных баёў супраць спец. каманд акупантаў, прызначаных для захопу і вывазу збожжа. Вырашальную ролю ў зрыве карных аперацый ворага адыгралі баявыя дзеянні Чырвонай Арміі на фронце. Захопнікі не маглі надоўга адцягнуць для барацьбы з партызанамі войскі, якія былі вельмі патрэбны на фронце. У баях з карнікамі партызаны Беларусі паказалі стойкасць і мужнасць. Высокі патрыятызм праяўлялі і мясцовыя жыхары, якія ўсяляк дапамагалі партызанам. У час адной з карных аперацый у лют. 1943 гітлераўцы схапілі братоў Івана і Міхаіла *Цубаў*. Міхаіл адмовіўся паказаць карнікам дарогу да партызан і быў расстраляны. Тады Іван завёў карны атрад у балота, адкуль яны не змаглі выйсці. Гітлераўцы забілі патрыёта.

Партызанская вайна з новай сілай разгарнулася восенню 1943, калі Чырвоная Армія ўступіла на тэр. Беларусі. У дырэктыве падп. парт. арг-цыям і партыз. атрадам ад 21.9.1943 ЦК КП(б)Б патрабаваў: «Узмацніць удары па тылах нямецкай арміі. Біць усюды калоны праціўніка. Усе магістралі і дарогі, па якіх адступае вораг, усеяць засадамі: не павінна быць ніводнага месца, дзе немцы маглі б беспакарана і бесперашкодна прайсці... Усімі сіламі і сродкамі захоўваць мірнае насельніцтва ад знішчэння і вывазу ў нямецкае рабства». 29.9.1943 Прэзідыум ВС БССР, СНК БССР і ЦК КП(б)Б у звароце да бел. народа заклікалі падтрымаць наступленне Чырвонай Арміі. Многія партыз. брыгады і атрады непасрэдна ўзаемадзейнічалі з часцямі Чырвонай Арміі пры вызваленні гарадоў і вёсак Беларусі.

Каб ліквідаваць пагрозу для сваіх войск з тылу, акупанты зімой і вясной 1944 узнавілі супраць партызан буйныя карныя аперацыі, у т. л. ў студз. 1944 супраць партызан Полацка-Лепельскай партыз. зоны, якую ўтрымлівалі 16 партыз. брыгад (гл. *Полацка-Лепельская бітва 1944, «Веснавое свята»*). У лют. 1944 вораг пачаў баявыя дзеянні супраць партызан Мінскай, Магілёўскай, Пінскай, Палескай і Брэсцкай абласцей. 18 дзён адбівалі атакі ворага партыз. атрады ў Клічаўскім р-не. Амаль месяц ішлі жорсткія баі паміж захопнікамі і партызанамі ў Любанскім, Старадарожскім, Глускім і Акцябрскім р-нах. Упартыя баі разгарнуліся на рубяжах Дняпроўска-Бугскага канала ў раёне Кобрын — Іванава (гл. *Дняпроўска-Бугскага канала абарона 1944*), каля в. Здзітава Бярозаўскага р-на (гл. *Здзітаўская абарона 1944*). Карныя аперацыі ворага не дасягнулі мэты. Праваліліся і планы гітлераўцаў сарваць вясеннюю сяўбу, знішчыць азімыя і пакінуць насельніцтва партыз. зон без хлеба. Партызаны ахоўвалі населеныя пункты, сялян, якія працавалі на сяўбе, аказвалі ім дапамогу.

У партыз. руху, падп. барацьбе ярка праявіўся высокі патрыятызм працоўных, якіх натхнялі на барацьбу ідэі справядлівай вызваленчай вайны, імкненне адстаяць сусветна-гіст. заваёвы Вял. Кастрычніка, гонар і незалежнасць сваёй Радзімы. Партызаны і падпольшчыкі карысталіся шырокай падтрымкай і дапамогай усяго бел. народа. Мясцовыя жыхары складалі пераважную большасць партызан (амаль 90 %). Насельніцтва давала партызанам прытулак і ежу, перадавала зброю, якую здабывала, інфармавала пра кожны крок ворага, удзельнічала ў баях. Барацьба насельніцтва супраць паліт., эканамічных і ваен. мерапрыемстваў акупантаў мела масавы характар. Фактычна ўвесь бел. народ дзейнічаў у тыле ворага адзіным фронтам і праявіў масавы гераізм і мужнасць. Ён пастаянна атрымліваў дапамогу з сав. тылу, адчуваў падтрымку брацкіх народаў Сав. Саюза. Гераізм сав. воінаў на франтах, самаадданая работа працоўных у сав. тыле натхнялі партызан і падпольшчыкаў на баявыя подзвігі.

Вядучую ролю ў партыз. руху адыгралі рабочыя. У атрадах і брыгадах на тэр. Беларусі было 16% жанчын. Партызан ва ўзросце 18—25 гадоў было 45,19%, ад 26 да 45—42,33, маладзей 18 і старэй 45—12,48%. У партыз. фарміраваннях разам з беларусамі (71,1 %) змагаліся рускія (19,29%), украінцы (3,89%), літоўцы, латышы, грузіны, казахі, армяне, узбекі, азербайджанцы малдаване, прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей СССР.

У радах партызан Беларусі знаходзілася каля 4 тыс. зарубежных антыфашыстаў, у т. л. 3 тыс. палякаў, 400 славакаў і чэхаў, 235 югаславаў, 70 венграў, 60 французаў, 31 бельгіец, 24 аўстрыйцы, 16 галандцаў, каля 100 немцаў, прадстаўнікі многіх інш. еўрапейскіх народаў. Сыны і дочкі бел. народа былі ў радах партызан братніх рэспублік, актыўна ўдзельнічалі ў руху Супраціўлення народаў Францыі, Італіі, Грэцыі і інш. еўрапейскіх краін. Інтэрнацыянальная сутнасць партыз. руху ярка праявілася ў цесным баявым узаемадзеянні бел. партызан з партызанамі РСФСР,

УССР, Прыбалтыкі. На бел. зямлі ў партыз. зонах знаходзілі прытулак і дапамогу арганізатарскія групы і атрады, якія былі накіраваны з Вял. зямлі ў Латвію, Літву, Малдавію. Яны карысталіся аэрадромамі гэтых зон, базамі, атрымлівалі праваднікоў. Бел. партызаны правялі шмат баявых аперацый разам з рускімі, украінскімі, літоўскімі, латышскімі і малдаўскімі партызанамі. Такую ж дапамогу, братнюю выручку і падтрымку мелі партызаны Беларусі на зямлі братоў-суседзяў — на тэр. Калінінскай, Смаленскай і Арлоўскай абласцей, на Украіне, у Літоўскай і Латвійскай рэспубліках. Братэрства, супрацоўніцтва і ўзаемадапамога народаў СССР, іх інтэрнацыяналізм былі невычэрпнай крыніцай сілы партыз. руху (гл. *Дружба народаў СССР*).

За тры гады гераічнай барацьбы ў тыле ворага, з чэрв. 1941 да ліп. 1944, патрыёты Беларусі знішчылі і паранілі больш за 500 тыс. гітлераўцаў, падарвалі і пусцілі пад адхон 11 128 воінскіх эшалонаў і 34 бронепаязды, разграмілі 29 чыг. станцый, 948 штабоў і гарнізонаў, падарвалі і знішчылі больш за 18 700 аўтамашын, узарвалі, спалілі і разбурылі 819 чыг. і 4710 інш. мастоў, перабілі больш за 300 тыс. чыг. рэек, разбурылі больш за 7300 км тэлефонна-тэлеграфных ліній, збілі ў паветры і спалілі на аэрадромах 305 самалётаў, вывелі са строю 1355 танкаў і бронемашын, знішчылі 438 гармат рознага калібру і 939 варожых складоў. Партызаны Беларусі захапілі трафеі: 363 гарматы і мінамёты, 1874 кулямёты, каля 21 тыс. вінтовак і аўтаматаў. Гэтыя баявыя вынікі — яркае сведчанне магутнасці ўсенар. партыз. вайны на Беларусі, яе дапамогі Чырвонай Арміі ў дасягненні перамогі. За гераізм і адвагу ў барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў больш за 140 тыс. бел. партызан і падпольшчыкаў узнагароджаны ордэнамі і медалямі, 88 з іх прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

**Працоўныя Беларусі ў савецкім тыле.** Значны ўклад у перамогу над ворагам зрабілі працоўныя Беларусі, эвакуіраваныя на ўсход краіны. Прадпрыемствы, якія былі вывезены з Беларусі, размяшчаліся пераважна ў Паволжы, на Урале, у Татарскай, Башкірскай АССР, Тамбоўскай, Саратаўскай, Курганскай, Пензенскай, Куйбышаўскай, Пермскай, Арэнбургскай, Томскай і інш. абласцях. Рабочыя, інжынерна-тэхнічныя работнікі ў час будаўніцтва вытворчых плошчаў, мантажу абсталявання паказалі ўзор працоўнага гераізму. Так, з-д «Гомсельмаш» змантціраваны ў г. Курган за месяц. За такі ж час устанавіў абсталяванне і пачаў выпуск зброі калектыў Гомельскага станкабудаўнічага з-да імя Кірава. У вер. 1941 далі прадукцыю фронту гомельскія паравозавагонарамонтны і суднарамонтны з-ды, віцебскія станкабудаўнічы з-д імя Камінтэрна, ф-кі імя КІМ і імя Клары Цэткін, у кастр.— ліст.— гомельскі з-д «Рухавік рэвалюцыі», віцебскія іголкавы з-д, ф-ка «Сцяг індустрыялізацыі» і інш. Калектывы эвакуіраваных бел. ф-к і з-даў уключаліся ва ўсесаюзнае сацыяліст. спаборніцтва за павелічэнне выпуску прадукцыі фронту, стваралі т. зв. франтавыя брыгады, заваёўвалі пераходныя Чырвоныя сцягі ЦК ВКП(б), Дзярж. к-та абароны, ВЦСПС, наркаматаў. Званне Героя Сацыяліст.



В. Волкаў. Мінск. 3 ліпеня 1944 года. 1944—55.

Працы прысвоена бел. чыгуначнікам А. В. Глебаву, М. А. Макараву, І. П. Першукевічу, А. М. Чухнюк, А. А. Янкоўскаму. Частка эвакуіраванага насельніцтва Беларусі працавала ў сельскай гаспадарцы. Вучоныя АН БССР удасканальвалі тэхналогію вытворчых працэсаў, вялі пошукі рэсурсаў сыравіны, вырашалі праблемы павышэння ўраджайнасці, распрацоўвалі эфектыўныя метады лячэння параненых. У 1943 на ст. Сходня пад Масквой аднавіў работу Белдзяржуніверсітэт, у Яраслаўлі — Мінскі мед. ін-т. Свой уклад у агульную справу разгрому ням.-фаш. захопнікаў уносілі і дзеячы бел. культуры і мастацтва. Тэатральнымі пастаноўкамі, канцэртнымі праграмамі, літаратурнымі і музычнымі творамі (гл. *Тэатр, Беларуская літаратура, Музыка, Кіно, Выяўленчае мастацтва)* яны выхоўвалі пачуццё патрыятызму, узнімалі баявы дух воінаў, натхнялі сав. народ на барацьбу з ворагам. Перад воінамі Чырвонай Арміі на Зах., Калінінскім, Бел., 1-м, 2-м і 3-м Бел. франтах, на мабілізацыйных пунктах, перад параненымі ў шпіталях, а потым і перад жыхарамі вызваленых раёнаў Беларусі выступалі *акцёрскія франтавыя брыгады.* У партыз. атрадах і брыгадах, на тэр. партыз. зон дзейнічалі самадзейныя мастацкія калектывы (гл. *Партызанская мастацкая самадзейнасць*); шырокай папулярнасцю карысталіся *партызанскія песні.* Працоўныя Беларусі збіралі грошы на патрэбы абароны. Насельніцтва Беларусі, у т. л. бел. партызаны і падпольшчыкі, унеслі ў *фонд абароны* значныя сродкі (золата, серабро, грошы, аблігацыі, прадукты).

**Вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў (1943—44).** Пасля *Курскай бітвы 1943* Чырвоная Армія разгарнула стратэгічнае наступленне на фронце ў 2 тыс. км — ад Невеля да Чорнага мора. У вер.— кастр. 1943 пачалі вызваленне Беларусі войскі франтоў: Калінінскага (з 20.10.1943 1-ы Прыбалтыйскі, ген.-палк. А. І. Яроменка, з ліст. 1943 ген.-палк. І. Х. Баграмян), Заходняга (з 24.4.1944 3-і Бел., ген. арміі В. Д. Сакалоўскі, з 24.4.1944 ген.-палк. І. Д. Чарняхоўскі), Бранскага (расфарміраваны 10.10.1943, ген.-палк. М. М. Папоў), Цэнтральнага (з 20.10.1943 Бел., з 17.2.1944 1-ы Бел., ген. арміі К. К. Ракасоўскі). Войскі Цэнтр. фронту ў ходзе *Чарнігаўска-Прыпяцкай аперацыі 1943* 23 вер. вызвалілі райцэнтр Камарын — першы вызвалены райцэнтр БССР. У ліку першых уступіла на тэр. БССР і 26.9.1943 вызваліла г. п. Хоцімск 3-я армія (ген.-лейт. А. В. Гарбатаў) Бранскага фронту. Да 2.10.1943 войскі фронту вызвалілі Клімавіцкі, Касцюковіцкі, Краснапольскі, Крычаўскі, Хоцімскі, Чэрыкаўскі р-ны. 29 вер. войскі Бранскага ва ўзаемадзеянні з войскамі Зах. фронту вызвалілі Крычаў (гл. *Бранская аперацыя 1943*). У кастр.— снеж. на віцебскім напрамку войскі Калінінскага і Зах. франтоў вызвалілі г. п. Езярышча, Гарадок (гл. *Гарадоцкая аперацыя 1943*), Лёзна, Сураж. Заходні фронт, які наступаў на аршанскім і магілёўскім напрамках, вызваліў Мсціслаў, Дрыбін. 12—13.10.1943 каля в. Леніна Горацкага р-на ў складзе 33-й арміі Зах. фронту вызначылася 1-я польская пяхотная дывізія імя Касцюшкі (палк. З. М. Берлінг). У вер.— кастр. 1943 на гомельскім напрамку войскі Чырвонай Арміі вызвалілі райцэнтры Церахоўку, Свяцілавічы, Ветку, Добруш, падышлі да Гомеля, фарсіравалі Сож і Дняпро, 18 ліст. вызвалілі Рэчыцу, 26 ліст.— Гомель (гл. *Бітва за Дняпро 1943, Гомельска-Рэчыцкая аперацыя 1943*). 61-я і 65-я арміі Бел. фронту 8—20.1.1944 ажыццявілі *Калінкавіцка-Мазырскую аперацыю 1944*: вызвалілі Мазыр і Калінкавічы. 3-я армія 1-га Бел. фронту 21—24.2.1944 прарвала абарону 9-й ням. арміі, фарсіравала Дняпро і Друць, 24 лют. вызваліла Рагачоў (гл. *Рагачоўска-Жлобінская аперацыя 1944*).

У выніку асенне-зімняга наступлення 1943—44 поўнасцю ці часткова вызвалены 36 раёнаў Беларусі, 36 раённых і 2 абл. цэнтры — Гомель і Мазыр. З ліст. 1943 да крас. 1944 з Чырвонай Арміяй злучылася 35 партыз. брыгад і 15 асобных атрадаў (больш за 50 тыс. чал.) Віцебскай, Магілёўскай, Гомельскай і Палескай абласцей, з іх больш за 45 тыс. партызан уступіла ў рады Чырвонай Арміі. Паводле распараджэння ЦК КП(б)Б значная частка партызан накіравана БШПР у зах. вобласці рэспублікі.

23—24 чэрв. Чырвоная Армія пачала *Беларускую аперацыю 1944:* войскі 1-га Прыбалтыйскага (ген. арміі І. Х. Баграмян) і 3-га Бел. (ген.-палк. І. Д. Чарняхоўскі) франтоў знішчылі вял. варожую групоўку ў раёне Віцебска, 26 чэрв. вызвалілі Віцебск, 27— Оршу (гл. *Віцебска-Аршанская аперацыя 1944, Віцебскі «кацёл»*); войскі 2-га Бел. фронту (ген.-палк. Г. Ф. Захараў) правялі *Магілёўскую аперацыю 1944,* 28 чэрв. авалодалі Магілёвам. Войскі правага крыла 1-га Бел. фронту (ген. арміі К. К. Ракасоўскі) акружылі і разграмілі бабруйскую групоўку ворага, 29 чэрв. вызвалілі Бабруйск (гл. *Бабруйская аперацыя 1944, Бабруйскі «кацёл»*). 29 чэрв.— 4 ліп. войскі 1-га, 2-га і 3-га Бел. франтоў ажыццявілі *Мінскую аперацыю 1944* і 3 ліп. вызвалілі Мінск, 4—11 ліп. ліквідавалі акружаныя на У ад Мінска ням. войскі (гл. *Мінскі «кацёл»*). Войскі 1-га Бел. фронту 8 ліп. авалодалі Баранавічамі, 10 ліп.— Слонімам, разграмілі люблінскую і брэсцкую групоўкі праціўніка, 28 ліп. штурмам авалодалі Брэстам і завяршылі вызваленне БССР (гл. *Люблін-Брэсцкая аперацыя 1944*). Пры правядзенні Бел. аперацыі Чырвонай Арміі дапамагалі партызаны Беларусі. Іх удзел у аперацыі быў прадугледжаны Стаўкай і ўзгоднены з дзеяннямі франтоў. Напярэдадні наступлення сав. войск у ноч на 20.6.1944 партызаны метадам «рэйкавай вайны» нанеслі масіраваны ўдар па асн. чыг. магістралях, узарвалі 40 тыс. рэек, усяго да поўнага вызвалення рэспублікі —61 тыс. рэек, 8 чыг. мастоў. Вораг не змог выкарыстаць чыгунку для падвозу рэзерваў, эвакуацый тылоў і вывазу нарабаванай маёмасці. Партызаны (да пач. лета 1944 на акупіраванай тэр. Беларусі дзейнічала 144 партыз. брыгады і 80 атрадаў) пераразалі шляхі адступлення праціўніку, не давалі яму рабаваць і паліць вёскі, ратавалі насельніцтва, захаплівалі і

ўтрымлівалі да падыходу сав. войск масты, пераправы, плацдармы, удзельнічалі ў баях за вызваленне гарадоў, пасёлкаў і вёсак, у ліквідацыі акружаных сіл ворага. Партызанамі былі захоплены і ўтрыманы да падыходу сав. войск дзесючыя пераправы і пабудаваны новыя цераз рэкі Пціч, Случ, Друць, Ольсу, Бярэзіну, Эсу, Вілію, Шчару, Нёман, Котру. Ва ўмовах панічнага адступлення гітлераўцаў партызаны вызвалілі сваімі сіламі і ўтрымлівалі да падыходу Чырвонай Арміі многія райцэнтры рэспублікі — Узду, Старобін, Рудзенск, Куранец, Свір, Відзы, Любчу, Астравец і інш. Разам з часцямі Чырвонай Арміі ўдзельнічалі ў вызваленні Мінска, Вілейкі, Барысава, Докшыц, Дунілавіч, Івацэвіч, Капаткевіч, Клічава, Слуцка, Ліды, Лагойска, Лунінца, Любані, Маладзечна, Нясвіжа, Навагрудка, Смалявіч, Асіповіч, Пінска, Плешчаніц, Стоўбцаў, Чэрвеня і інш. Усяго ў ходзе баявога ўзаемадзеяння з часцямі сав. войск партызаны Беларусі знішчылі больш за 15 тыс. і ўзялі ў палон больш за 17 тыс. гітлераўскіх салдат і афіцэраў.

У гарадах і вёсках адбыліся мітынгі, прысвечаныя вызваленню ад ням.-фаш захопнікаў. 16.7. 1944 на мітынгу працоўных Мінска, партызан і прадстаўнікоў Чырвонай Арміі 1-ы сакратар ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнка ад імя ЦК КП(б)Б і ўрада БССР горача павіншаваў працоўных Мінска, партызан з вызваленнем ад акупантаў і перадаў воінам 1, 2, 3-га Бел. і 1-га Прыбалтыйскага франтоў сардэчную падзяку бел. народа за вызваленне ад фаш. прыгнёту; адбыўся *партызанскі парад 1944*. У выніку Бел. аперацыі поўнасцю вызвалена Беларусь, большая частка Літвы, частка Латвіі, усх. раёны Польшчы; Чырв. Армія падышла да граніц Усх. Прусіі, прасунулася на 550—600 км. У ходзе аперацыі сав. войскі разграмілі ням. групу армій «Цэнтр»; 17 дывізій і 3 брыгады былі поўнасцю знішчаны, 50 дывізій страціла больш за палавіну свайго складу. Радзіма высока ацаніла масавы гераізм воінаў Чырвонай Арміі і народа ў баях за вызваленне Беларусі: больш за 1600 генералам, афіцэрам і салдатам прысвоена званне Героя Сав. Саюза, у ліп.— жн. 1944 ордэнамі і медалямі ўзнагароджаны больш за 402 тыс. воінаў чатырох франтоў, 874 злучэнні і часці ўзнагароджаны ордэнамі СССР. 747 воінскіх часцей і злучэнняў, якія вызначыліся ў Бел. аперацыі, атрымалі ганаровыя найменні вызваленых імі гарадоў. Разгром ням.-фаш. войск на тэр. Беларусі стварыў спрыяльныя ўмовы для інш. наступальных аперацый, у выніку ажыццяўлення якіх Чырвоная Армія ў 2-й пал. 1944 выгнала ворага з тэр. СССР і, верная інтэрнацыянальнаму абавязку, пачала вызваленне народаў Еўропы ад фаш. няволі. У студз. 1945 сав. войскі перайшлі ў наступленне на фронце ад Балтыйскага мора да Карпат. 16.4.1945 войскі Чырвонай Арміі пачалі Берлінскую аперацыю, акружылі і разграмілі берлінскую групоўку ворага, 30 крас. ўварваліся ў рэйхстаг і ўзнялі Сцяг Перамогі. 8.5.1945 фаш. Германія падпісала Акт аб безагаворачнай капітуляцыі.

У жн. 1945 на Далёкім Усходзе Чырвоная Армія з удзелам войск МНР разграміла японскую Квантунскую армію. 2.9.1945 Японія падпісала Акт аб безагаворачнай капітуляцыі, што азначала канец 2-й сусветнай вайны.

Перамога над фаш. Германіяй і яе саюзнікамі была атрымана сумеснымі намаганнямі краін антыгітлераўскай кааліцыі, барацьбітоў руху Супраціўлення ў акупіраваных краінах. Але сав. народ і яго Чырвоная Армія адыгралі вырашальную ролю ў барацьбе супраць рэакцыйных сіл, вынеслі на сваіх плячах асн. цяжар вайны, пад кіраўніцтвам Камуніст. партыі атрымалі ваен., паліт. і эканамічную перамогу. Яны не толькі адстаялі сваю Радзіму, але і выратавалі народы свету ад пагрозы закабалення фашызмам. СССР узмацніў свой міжнародны аўтарытэт. У гэтай вайне Сав. краіна страціла больш за 20 млн. чалавечых жыццяў, у т. л. Беларусь —2,2 млн. чал. Толькі прамыя матэрыяльныя страты краіны склалі 679 млрд. руб., у т. л. БССР —75 млрд. руб. Краіна страціла каля 30 % нацыянальнага багацця (гл. *Матэрыяльныя страты*). Гераічнай працай усяго сав. народа аднаўлялася разбураная нар. гаспадарка акупіраваных абласцей, у т. л. БССР (гл. *Аднаўленне народнай гаспадаркі БССР у 1943—45*).

*У. І. Лемяшонак, П. П. Ліпіла, П. К. Панамарэнка, В. П. Раманоўскі, Э. Ф. Языковіч, У. М. Якубоўскі.*



**АБАЗО́ЎСКІ** Канстанцін Антонавіч (1.10.1919, в. Абухава Бешанковіцкага р-на — 26.10.1944), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Віцебскі настаўніцкі ін-т (1938), ваен. авіяцыйнае вучылішча. У Чырвонай Арміі з 1940. На фронце з 1943. Удзельнік вызвалення Паўн. Каўказа, Крыма, Прыбалтыкі. Зрабіў 106 баявых вылетаў, знішчыў 11 танкаў, 3 самалёты на зямлі, 139 аўтамашын, 26 зенітных установак, 22 палявыя пушкі, інш. тэхніку праціўніка. 6.5.1944 у паветр. баі каля Севастопаля звяно штурмавікоў пад камандаваннем ст. лейт. А. збіла 5 варожых знішчальнікаў, разбамбіла на зямлі 8 самалётаў і 2 склады з боепрыпасамі. Загінуў пры выкананні баявога задання ў Прыбалтыцы. У г. п. Бешанковічы ўстаноўлены бронзавы бюст А., яго імем названы вуліца і завулак, у в. Пліса Бешанковіцкага р-на сярэдняя школа, на будынку школы ўстаноўлена мемар. дошка.

**АБАРО́НЧАЯ АПЕРА́ЦЫЯ НА БЕЛАРУ́СІ 1941,** праведзена войскамі Заходняга фронту 22 чэрв.— 9 ліп.

На пачатак вайны ў прыгранічнай зоне Зах. Асобай ваен. акругі (22.6.1941 пераўтворана ў Зах. фронт, камандуючы ген. арміі Дз. Р. Паўлаў) знаходзілася 26 дывізій 3-й (ген.-лейт. В. І. Кузняцоў), 10-й (ген.-маёр К. Дз. Голубеў), 4-й (ген.-маёр А. А. Карабкоў) армій прыкрыцця. Усе стралк. дывізіі і 1 кав. дывізія гэтых армій размяшчаліся ў раёнах, што прымыкалі да дзярж. граніцы, 13 дывізій (8 танк., 4 матарызаваных і 1 кав.) складалі 2-і эшалон армій. Акрамя гэтага, у распараджэнні камандуючага акругай мелася 18 дывізій, у т. л. 12 неадмабілізаваных стралк. дывізій. Большасць дывізій 2-га эшалона высоўваліся з глыбокага тылу акругі і знаходзіліся ў 400—600 км ад дзяржаўнай граніцы. З 8 танк. дывізій, што меліся ў акрузе, танкамі былі ўкамплектаваны прыкладна на 50 % толькі 2 дывізіі, менш чым на 50 %—4 дывізіі, 2 дывізіі амаль не мелі танкаў. Асн. сілы 1-га эшалона акругі (з 26 дывізій 19, у т. л. ўсе танк.) размяшчаліся ў беластоцкім выступе. Як паказаў пачатак вайны, такая групоўка не адпавядала той абстаноўцы, якая склалася, бо ням.-фаш. войскі гал. ўдары наносілі на сувалкска-маладзечанскім і брэсцка-баранавіцкім напрамках. Беластоцкая групоўка фронту ў абароне магла быць эфектыўна выкарыстана толькі пасля складанай перагрупоўкі ці на флангі ці на адзін з флангаў фронту. Але ажыццявіць такую перагрупоўку з пачаткам баявых дзеянняў аказалася немагчымым.

На світанні 22 чэрвеня фаш. Германія вераломна напала на СССР. Яе авіяцыя нанесла масіраваныя ўдары па аэрадромах, чыг. вузлах, ваеннамарскіх базах, месцах раскватаравання вайсковых часцей і многіх гарадах. У Зах. Асобай ваен. акрузе наветраным налётам падвергліся 26 аэрадромаў, у першы дзень акруга страціла 738 самалётаў (41 %), уся Чырвоная Армія — 1200. Становішча ўскладнялася тым, што праціўнік нанёс удары пераважна па аэрадромах, дзе базіраваліся самалёты новых тыпаў, якія па сваіх тактыка-тэхнічных даных не ўступалі нямецкім. У гэтых цяжкіх умовах сав. лётчыкі смела пачыналі няроўныя схваткі з паветраным праціўнікам. Але становішча было выключна цяжкім. Вялікія страты сав. авіяцыі і гал. чынам якасная перавага асн. масы ням. самалётаў дазволілі фашыстам захапіць ініцыятыву ў паветры на рашаючых напрамках.

Супраць дывізій 1-га эшалона акругі праціўнік раніцай 22 чэрвеня перайшоў у наступленне сіламі каля 40 дывізій групы армій *«Цэнтр»*. Першымі ў бой з перадавымі часцямі праціўніка ўступілі сав. пагранічнікі. Маючы толькі стралк. зброю, яны храбра сустрэлі ворага і ў жорсткіх схватках біліся насмерць. На правы фланг Зах. фронту, дзе дзейнічалі войскі 3-й арміі, пачалі выходзіць і ахопліваць яго злучэнні 3-я танк. група і левафланговыя армейскія карпусы 9-й арміі ням.-фаш. войск, што прарваліся на левым крыле Паўн.-Зах. фронту. Гэта групоўка праціўніка налічвала 11 дывізій, з 26 чэрв. яна ўжо цалкам дзейнічала супраць Зах. фронту. У выніку сілы праціўніка на Зах. фронце склалі больш за 50 дывізій. У ходзе аперацыі ў бітву пачалі ўступаць 18 дывізій 2-га эшалона Зах. фронту, а з боку праціўніка — 7—8 дывізій, што высоўваліся з рэзерву галоўнага камандавання сухапутных войск. Усяго ў баявых дзеяннях на зах. напрамку ў першы тыдзень вайны з сав. боку ўдзельнічала 44 дывізіі, не ўкамплектаваныя да штату ваен. часу, а з боку праціўніка — 60 дывізій, у т. л. 9 танк. і 7 матарызаваных. Сілы ворага больш чым у 1,5 раза пераўзыходзілі сав. войскі. Перавага была значнай на сувалкска-маладзечанскім і брэсцка-баранавіцкім напрамках, дзе ішлі рашаючыя баі. На брэсцка-баранавіцкім напрамку ў палосе шырынёй 100 км праціўнік пераўзыходзіў сав. войскі ў жывой сіле амаль у 4 разы, па танках у 1,5 раза, па колькасці гармат і мінамётаў амаль у 3 разы, па самалётах больш чым у 1,5 раза.

Складанае становішча склалася і на левым крыле Зах. фронту, дзе супраць 4 дывізій 1-га эшалона 4-й арміі наступала 10 дывізій праціўніка, у т. л. 4 танкавыя. У 2-м эшалоне наступалі яшчэ 2 пяхотныя, 1 танкавая і 3 матарызаваныя дывізіі. Войскі 4-й арміі своечасова не былі разгорнуты і не здолелі выкарыстаць для абароны выгадную мясцовасць у раёне Брэста. 42-я і 6-я стралк. дывізіі, што знаходзіліся ў цэнтры палосы арміі, падвергліся ўдарам авіяцыі і арт. абстрэлу праціўніка, не змаглі заняць прызначаныя ім па плану палосы абароны і, не вытрымаўшы ўдараў праціўніка, пачалі адступаць. Толькі нязначная частка гэтых дывізій і некаторыя падраздзяленні пагранічнага атрада, абапіраючыся на ўмацаванні Брэсцкай крэпасці, аказалі 45-й і часці сіл 31-й пяхотных дывізій ворага стойкае супраціўленне (гл. *Брэста абарона 1941*). Нягледзячы на колькаснае пераўзыходжанне праціўніка, абстрэлы, бесперапынныя ўдары яго авіяцыі, абаронцы крэпасці мужна супраціўляліся і наносілі ворагу вялікія страты. З 22 чэрв. да канца ліпеня працягвалася *Брэсцкай крэпасці абарона 1941*. Праз месяц ням.-фаш. войскі былі ўжо пад Смаленскам, а тыя, хто засталіся жывымі, усё яшчэ працягвалі беспрыкладную барацьбу ў крэпасці, якая стала цяпер сімвалам нязломнай стойкасці і мужнасці сав. воінаў. Цяжкае становішча склалася і ў беластоцкім выступе — цэнтры Зах. фронту, дзе займала абарону 10-я армія, якая, не вытрымаўшы націску праціўніка, пачала адыходзіць.

Ужо к вечару 22 чэрв. выявілася пагроза глыбокага ахопу танк. злучэннямі праціўніка абодвух флангаў Зах. фронту, цэнтр якога быў моцна высунуты на захад. Камандаванне Зах. фронту не мела сувязі з арміямі і не ведала становішча, што склалася, і не толькі не прыняло рашучых мер па арганізацыі абароны на маладзечанскім напрамку, але яшчэ больш агаляла правае крыло фронту. У сваіх рашэннях камандаванне фронту ў значнай ступені было звязана ўказаннямі народнага камісара абароны СССР С. К. Цімашэнкі пра неабходнасць разгрому ўдарных груповак ням.-фаш. войск. Войскі фронту павінны былі арганізаваць наступальныя дзеянні. Спробы нанясення контрудараў 22 і 23 чэрвеня сіламі другіх эшалонаў армій прыкрыцця і 11-м механізаваным корпусам у палосе 3-й арміі на гродзенскім напрамку і 14-м механізаваным корпусам у палосе 4-й арміі на брэсцкім напрамку мелі нязначны поспех. У выкананне дырэктывы наркома абароны камандуючы войскамі фронту стварыў конна-механізаваную групу ў складзе 11-га механізаванага корпуса 3-й арміі, які ўжо дзейнічаў, 6-га механізаванага корпуса і 36-й кав. дывізіі 10-й арміі пад агульным камандаваннем нам. камандуючага фронтам ген.-лейт. І. В. Болдзіна. Контрудар гэтай групы, праведзены 23 і 24 чэрв., толькі скаваў 4 пяхотныя

дывізіі праціўніка і на некалькі дзён затрымаў іх у раёне Гродна. Разам з тым контрудар затрымаў у беластоцкім выступе сама меней на 2 дні нашы 3-ю і 10-ю арміі, што ў тым становішчы было немэтазгодным, бо іх войскам пагражала поўнае акружэнне.

Перамяшчэнне сав. войск з маладзечанскага напрамку ў раён Ліды з мэтаю арганізацыі наступлення супраць сувалкскай групоўкі праціўніка прывяло да таго, што 24 чэрв., калі асн. сілы 3-й танк. групы праціўніка пасля заняцця Вільнюса рушылі да Мінска, напрамак Вільнюс — Мінск аказаўся амаль непрыкрыты. Таму дывізіям, сканцэнтраваным у Мінску, было загадана тэрмінова заняць абарону Мінскага ўмацаванага раёна (УР). Недастаткова зладжана былі арганізаваны дзеянні войск і на баранавіцкім напрамку. Танкавыя дывізіі праціўніка захапілі рубеж па р. Шчара і падышлі да Баранавіч, а затым, развіваючы наступленне, апярэдзілі сав. войскі, 27 чэрв. захапілі Слуцк і прасоўваліся да Бабруйска.

К вечару 28 чэрв. сілы праціўніка, што наступалі ад Гродна на поўдзень і з раёна Бельска на паўночны ўсход, злучыліся ў раёне Крынкі (на р. Свіслач), адрэзалі шляхі адыходу нашым войскам, што знаходзіліся ў раёне Беластока. Адначасова з боку Бельска праціўнік выйшаў да Ваўкавыска, а рухомыя злучэнні 2-й ням. танк. групы захапілі Слонім. На наступны дзень вораг акружыў левафланговыя часці 10-й арміі на паўднёвы ўсход ад Ваўкавыска. Са складу 3-й і 10-й сав. армій адыход на ўсход працягвалі толькі 4 стралк., 1 танк. і 1 кав. дывізіі. Астатнія войскі гэтых армій працягвалі змагацца ў тыле ворага. Баранавіцкая групоўка фронту пад ударамі танк. дывізій праціўніка адступіла на 20 км на поўнач ад г. Баранавічы. Войскі 13-й арміі вялі жорсткія баі на абводзе Мінскага УРа (гл. *Мінска абарона 1941*). Да вечара 29 чэрв. ў раёне Мінска адбылося злучэнне войск 3-й і 2-й танк. груп праціўніка, у акружэнні аказаліся ў агульнай колькасці больш за 10 дывізій Зах. фронту. Для іх акружэння была выкарыстана большая частка войск групы армій «Цэнтр» (да 36 дывізій). У ходзе баёў многія акружаныя часці прарываліся і выходзілі на злучэнне са сваімі войскамі. За р. Бярэзіна, а затым і за Дняпро ў розны час асобнымі групамі і часцямі выйшла з акружэння значная частка войск 13-й, 3-й, 10-й армій. Многія часці, што засталіся ў варожым тыле, перайшлі да партыз. дзеянняў.

У выніку войскі Зах. фронту на пачатак ліпеня пацярпелі сур'ёзнае паражэнне. Сілы, якія засталіся, ужо не маглі стварыць суцэльнага фронту абароны на ўсход ад Мінска па рубяжы р. Бярэзіна. У пач. ліпеня танк. і матарызаваныя дывізіі 4-й танк. арміі праціўніка (створана 3 ліпеня з 2-й і 3-й танк. груп) пачалі прасоўванне з раёна Мінска на ўсход. Стварылася пагроза хуткага выхаду войск праціўніка да рубяжа Дняпра. Яшчэ 25 чэрв. Стаўка прыняла рашэнне стварыць абарончы рубеж па лініі Сушчава, Віцебск і р. Дняпро да Крамянчуга. Паводле гэтага рашэння ў палосе Зах. фронту абарона павінна была быць створана па лініі Сушчава, Невель, Віцебск, Магілёў, Жлобін, Гомель сіламі 22-й, 20-й, 21-й армій, якія атрымалі загад Стаўкі к зыходу 28 чэрв. заняць абарону па рубяжы Краслава, Дзісна, Полацкі УР, Віцебск, Орша, р. Дняпро да Лоева. Ім была пастаўлена задача не дапусціць прарыву праціўніка ў напрамку на Маскву, знішчыць яго магутнымі контрударамі наземных войск і авіяцыі. Раней указаны пярэдні край для 22-й арміі выносіўся на 150—200 км на паўднёвы захад да сярэдняга цячэння р. Зах. Дзвіны і для 21-й арміі на 50 км на захад да ніжняга цячэння р. Бярэзіна. У раён Смаленска, Ярцава, Духаўшчыны была павернута 16-я армія, якая рухалася з Забайкальскай ваен. акругі на Украіну. Пачалася таксама перакідка ў раён Віцебска дывізій 19-й арміі, якія канцэнтраваліся ў раёне Кіева. Паводле ўказання Стаўкі на ўсход ад фронту абароны, які ствараўся, пачалося сканцэнтраванне 24-й і 28-й армій. Усяго на пачатак ліпеня на зах. напрамку павінна было сканцэнтравацца 70 дывізій. Усе гэтыя войскі 2 ліп. былі ўключаны ў склад Зах. фронту, ранейшае камандаванне якога было адхілена ад кіраўніцтва войскамі. Камандуючым войскамі быў прызначаны Маршал Сав. Саюза С. К. *Цімашэнка.*

Пасля 29 чэрвеня войскі, якія адступілі з раёна Мінска, не змаглі затрымаць на доўгі час праціўніка на р. Бярэзіна. Пачалася *Магілёва абарона 1941.* У пачатку ліпеня матарызаваныя часці праціўніка выйшлі да Дняпра на ўчастку Новы Быхаў — Рагачоў — Жлобін і спрабавалі фарсіраваць раку, сустрэлі жорсткае супраціўленне 21-й арміі. Іншыя рухомыя злучэнні праціўніка наступалі ў напрамку Полацка (гл. *Полацка абарона 1941*) і Віцебска (гл. *Віцебска абарона 1941*). 6 ліп. паводле ўказання камандуючага Зах. фронтам быў распачаты контрудар сіламі 7-га і 5-га механізаваных карпусоў з раёна на поўнач ад Оршы ў фланг войскам 3-й танкавай групы праціўніка, якія наступалі на Віцебск. Контрудар не меў поспеху з-за кепскай яго арганізацыі і слабага прыкрыцця з паветра (гл. *Лепельскі контрудар 1941*). К вечару 9 ліп. танк. і матарызаваныя дывізіі 4-й танк. арміі праціўніка падышлі да рубяжа рэк Зах. Дзвіна і Дняпро на ўсім фронце ад раёна Полацка да Жлобіна. На гэты час разгортванне войск 22-й, 20-й, 21-й, 19-й армій на вызначаным рубяжы яшчэ не было скончана і праціўніку ўдалося прарвацца на стыку 22-й і 20-й армій, авалодаць Віцебскам, а таксама захапіць плацдарм на паўн. беразе Зах. Дзвіны каля Дзісны. Становішча для войск Зах. фронту заставалася вельмі цяжкім. Яны не змаглі ў першыя дні спыніць ворага і забяспечыць неабходны час для поўнага сканцэнтравання і разгортвання стратэгічных рэзерваў (22-й, 20-й, 19-й, 21-й, 16-й армій) і стварэння на зах. напрамку ўстойлівага стратэгічнага фронту абароны.


К. А. Абазоўскі. Дз. К. Абраменка.

Да 10 ліп. ням.-фаш. войскі захапілі значную частку Беларусі. На момант выхаду праціўніка да Дняпра абарончыя пазіцыі на гэтым рубяжы не былі абсталяваны. Сав. войскі, расцягнутыя на шырокім фронце, мелі слаба абсталяваныя стыкі, не хапала сродкаў супрацьпаветранай і супрацьтанкавай абароны. Стварылася пагроза прарыву праціўніка на Смаленск, разгарнулася *Смаленская бітва 1941*.

Войскі першапачатковага складу Зах. фронту панеслі вялікія страты ў людзях і баявой тэхніцы. Часці і злучэнні Зах. Асобай акругі, як і іншых прыгранічных ваен. акруг, не былі адмабілізаваны і разгорнуты на прадугледжаных планам прыкрыцця рубяжах, войскі не былі прыведзены своечасова ў поўную баявую гатоўнасць. На пачатак вайны за лініяй пагранічных застаў у 3—5 км ад дзярж. граніцы размяшчаліся толькі асобныя роты і батальёны сав. войск. Дывізіі першых эшалонаў армій прыкрыцця знаходзіліся ў раёнах, аддаленых ад вызначаных ім рубяжоў разгортвання на 8—20 км, а другія эшалоны, што складаліся, як правіла, з механізаваных карпусоў — у некалькіх дзесятках км ад граніцы. Нападзенне праціўніка застала войскі ў раёнах расквартаравання і ў лагерах. Авіяцыя акругі панесла вялікія страты на сваіх аэрадромах, праціўнік атрымаў перавагу ў паветры. Адной з сур'ёзных прычын няўдалага зыходу аперацыі з'явілася страта кіравання войскамі ва ўсіх звеннях. Яно было дэзарганізавана ўздзеяннем авіяцыі праціўніка на пункты кіравання і

сродкі сувязі. Авіяцыя праціўніка вывела са строю радыёстанцыі ва ўпраўленнях армій. Не далі станоўчых вынікаў і спробы наладзіць кіраванне войскамі праз афіцэраў сувязі з выкарыстаннем рухомых сродкаў сувязі (самалёты, бронемашыны). Камандуючы фронтам у сувязі з гэтым страціў кіраванне і не мог з дастатковай эфектыўнасцю выкарыстаць сілы і

М. І. Абрамчук. В. Ц. Абухаў.



сродкі, што меліся ў яго распараджэнні. Загады і распараджэнні ў войскі не траплялі, а калі і даходзілі, то з вялікім спазненнем і на той час ужо не адпавядалі становішчу, што складвалася. Рэзервы фронту ўступалі ў бой паасобку. Узаемадзеянне як паміж арміяй, так і паміж войскамі Зах. і Паўн.-Зах. франтоў таксама не было арганізавана. Не ў меншай ступені аказалася дэзарганізаванай і служба тылу.

Нягледзячы на буйное паражэнне войск Зах. фронту на Беларусі, іх намаганні ў барацьбе з моцным і вопытным ворагам не засталіся безвыніковымі. Першапачатковыя поспехі ням.-фаш. войск былі таксама спалучаны з іх значнымі стратамі. Неспрыяльнае становішча і цяжкасці, з якімі сутыкнуліся Сав. Узбр. Сілы, уступаючы ў вайну, наклалі адбітак на ход ваен. дзеянняў не толькі ў пачатковым перыядзе вайны, але і ў наступныя месяцы. Затрачаныя намаганні і вялікія ахвяры пакуль не маглі змяніць ходу вайны. Вораг меў велізарныя магчымасці і працягваў рвацца да жыццёва важных цэнтраў краіны. Новыя цяжкія выпрабаванні павінен быў вынесці сав. народ і яго ўзброеныя сілы. Але ўжо першыя падзеі вайны паказалі, што ні раптоўнасць нападу, ні магутныя першапачатковыя ўдары ворага не зламалі волю сав. народа і яго арміі да супраціўлення, не змаглі падарваць іх маральна-палітычнага адзінства. У гэтыя цяжкія для нашай краіны дні Камуніст. партыя і Сав. ўрад прымалі надзвычайныя меры па мабілізацыі ўсіх рэсурсаў дзяржавы, каб адбіць агрэсію, карэнна перабудаваць жыццё і дзейнасць краіны на ваенны лад.

*А. С. Галіцан.*

**АБЛАСНЫ́Я АНТЫФАШЫ́СЦКІЯ АРГАНІЗА́ЦЫІ,** падпольныя патрыятычныя арг-цыі, якія дзейнічалі на акупіраванай тэрыторыі Беластоцкай і Брэсцкай абласцей пад кіраўніцтвам падп. абкомаў КП(б)Б (гл. *Беластоцкая абласная антыфашысцкая арганізацыя, Брэсцкая абласная антыфашысцкая арганізацыя*). З'яўляліся праваднікамі палітыкі Камуніст. партыі, яе верным памочнікам у арганізацыі ўсенар. барацьбы супраць акупантаў у тыле ворага. Складаліся з *раённых антыфашысцкіх арганізацый*. Абласную арг-цыю ўзначальваў абл. антыфаш. к-т (5—7 чал.) у складзе сакратара, нам. сакратара і членаў, якія адказвалі за канкрэтныя ўчасткі работы (агітацыя і прапаганда, канспірацыя, матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне, сувязь з інш. арг-цыямі і партыз. фарміраваннямі, падрыхтоўка і правядзенне баявых аперацый і інш.). К-ты праводзілі масава-паліт. работу, гутаркі і сходы ў населеных пунктах. Выдавалі і распаўсюджвалі надп. газеты і лістоўкі. Прымалі па радыё паведамленні Саўінфармбюро і інш. матэрыялы аб падзеях на франтах Вял. Айч. вайны і ў сав. тыле, шырока знаёмілі з імі насельніцтва. Аказвалі дапамогу партыз. фарміраванням: рыхтавалі і накіроўвалі ў атрады папаўненні людзьмі, зброяй, боепрыпасамі, забяспечвалі партызан харчамі, адзеннем, медыкаментамі, дапамагалі ў правядзенні разведкі, дыверсійна-баявой работы.

*Л. В. Аржаева, П. П. Ліпіла.*

**АБЛАСНЫ́Я ПАДПО́ЛЬНЫЯ КАМІТЭ́ТЫ КП(б)Б,** кіруючыя парт. органы на часова акупіраванай ням.-фаш. захопнікамі тэр. Беларусі. Былі створаны і працавалі пад кіраўніцтвам *Цэнтральнага Камітэта КП(б)Б*. Арганізоўвалі і ўзначальвалі парт. падполле і партыз. рух, паліт. работу сярод насельніцтва, узнімалі яго на барацьбу супраць акупантаў. Мелі друкаваныя органы — газеты (гл. *Друк падпольны*). Дзейнічала 10 А.п.к. КП(б)Б: Баранавіцкі, Беластоцкі, Брэсцкі, Вілейскі, Віцебскі, Гомельскі, Магілёўскі, Мінскі, Палескі, Пінскі (гл. адпаведныя арт.).

А.п.к. КП(б)Б узначальвалі дзейнасць падп. 11 міжрайкомаў і 6 міжрайпартцэнтраў, 8 гаркомаў і 2 гаркомаў-райкомаў, 166 райкомаў КП(б)Б (у т. л. 5 райкомаў г. Мінска), якія аб'ядноўвалі больш за 1200 пярвічных парт. арг-цый у партыз. фарміраваннях і 184 тэрытарыяльныя падп. парт. арг-цыі, больш за 35 тыс. камуністаў. У асн. дыслацыраваліся ў *партызанскіх зонах* у размяшчэнні буйных партыз. фарміраванняў. Стварэнне А.п.к. КП(б)Б у варожым тыле з'явілася састаўной часткай парт. будаўніцтва Камуністычнай партыі ў падполлі ў цэлым і было падпарадкавана задачам мабілізацыі шырокіх нар. мас на барацьбу з ворагам. Гл. таксама арт. *Міжраённыя падпольныя камітэты КП(б)Б, Міжраённыя падпольныя партыйныя цэнтры, Гарадскія падпольныя камітэты КП(б)Б. Раённыя падпольныя камітэты КП(б)Б.*

*А. А. Каваленя.*

**АБЛАСНЫ́Я ПАДПО́ЛЬНЫЯ КАМІТЭ́ТЫ ЛКСМБ,** кіруючыя камсамольскія органы на часова акупіраванай ням.-фаш. захопнікамі тэр. Беларусі. У сваіх абласцях арганізоўвалі і ўзначальвалі *камсамольска-маладзёжнае падполле*, праводзілі паліт. работу сярод моладзі, узнімалі яе на барацьбу з акупантамі. Былі створаны і працавалі пад кіраўніцтвам *Цэнтральнага Камітэта ЛКСМБ, абласных падпольных камітэтаў КП(б)Б.* Дзейнічала 10 А. п. к. ЛКСМБ: Баранавіцкі, Беластоцкі, Брэсцкі, Вілейскі, Віцебскі, Гомельскі, Магілёўскі, Мінскі, Палескі, Пінскі (гл. адпаведныя арт.). Баранавіцкі, Беластоцкі, Вілейскі і Мінскі абкомы мелі друкаваныя органы (гл. *Друк падпольны*).

Кіравалі дзейнасцю падп. 6 міжрайкомаў і 5 міжрайцэнтраў, 13 гаркомаў, Лідскага гаркома-райкома, 189 райкомаў ЛКСМБ (у т. л. 3 райкомаў г. Мінска), якія аб'ядноўвалі больш за 2500 пярвічных камсамольскіх арг-цый у партыз. фарміраваннях, каля 3 тыс. надп. камсамольскіх і 335 маладзёжных антыфаш. арг-цый, амаль 80 тыс. камсамольцаў-партызан і больш за 20 тыс. падпольшчыкаў (гл. *Міжраённыя падпольныя камітэты ЛКСМБ, Міжраённыя падпольныя цэнтры ЛКСМБ, Гарадскія падпольныя камітэты ЛКСМБ, Раённыя падпольныя камітэты ЛКСМБ*). *Р. М. Шавяла.*

**АБРАЗЕ́ЕВА,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на Пд ад в. Сар'я. Перад вайной у ёй жыло 49 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»*, фашысты загубілі 36 жыхароў, вёску (13 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1982 на месцы вёскі насыпаны курган, на яго вяршыні ўстаноўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**АБРА́МЕНКА** Дзмітрый Кузьміч (22.7.1910, в. Філіпкава Віцебскага р-на —28.1.1981), поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПСС з 1942. З ліпеня 1941 на Зах., Ленінградскім, Волхаўскім, Паўд., 4-м Украінскім, 1-м Прыбалтыйскім, 3-м Бел. франтах. Камандзір гарматы ст. сяржант А. вызначыўся пры вызваленні Севастопаля — яго гарматы разлік знішчыў 2 варожыя дэсантныя катэры; пры вызваленні Шаўляя, у баі каля г. Пройсіш-Эйлаў (Усх. Прусія) ліквідаваў 4 станковыя кулямёты, 2 кулямётныя кропкі. Пасля вайны жыў і працаваў на радзіме.

**АБРАМЧУ́К** Мікалай Іванавіч (20.11. 1910, в. Раманаўка Ваўкавыскага р-на —1.2.1974), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1932. Скончыў ваен. школу лётчыкаў (1934). З чэрв. 1941 на Паўд.-Зах., Зах., Сталінградскім, 1-м Украінскім франтах. Камандзір эскадрыллі знішчальнага авіяпалка. Зрабіў 300 баявых вылетаў, знішчыў 16 самалётаў праціўніка. Да 1954 у Сав. Арміі, падпалкоўнік.

**АБРА́МЧЫК** Мікалай Сямёнавіч (16.8. 1903, в. Сычавічы Маладзечанскага

р-на — 1970, Парыж), паслугач ням.-фаш. акупантаў. У 1920 старшыня валейскага савета ад урада т. зв. Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР). У 1924 выехаў з Зах. Беларусі на вучобу ў Прагу, дзе зблізіўся з прадстаўнікамі ўрада БНР П. Крычэўскім, В. Захаркам і інш. Вёў антысав. прапаганду; стварыў у Францыі бел. нацыяналіст. арг-цыю «Хаўрус». Перад вайной у Берліне, дзе арганізаваў «Беларускі камітэт самапомачы», выдаваў на бел. мове прафашысцкую газ. «Раніца» (1939—44). З 1947 прэзідэнт т. зв. Рады Бел. нар. рэспублікі — антысав. цэнтра, створанага з дапамогаю амерыканскіх спецслужбаў у процівагу «Беларускай цэнтральнай радзе».

**АБУ́ХАЎ** Віктар Цімафеевіч (7.1.1900, с. Нікольскае Арэнбургскага р-на — 26.11.1975), Герой Сав. Саюза (1944), ген.-палк. танк. войск (1954). Чл. КПСС з 1918. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1934), Вышэйшыя акадэмічныя курсы пры Ваен. акадэміі Генштаба (1952). Удзельнік грамадзянскай вайны, баёў з японскімі захопнікамі на р. Халхін-Гол у 1939. На фронце з чэрв. 1941, камандзір 26-й танк. дывізіі, якая дыслацыравалася ў Беларусі. Удзельнік Сталінградскай і Курскай бітваў, вызвалення Украіны, Беларусі, Літвы, Латвіі, разгрому Квантунскай арміі Японіі на Далёкім Усходзе. Механізаваны корпус пад камандаваннем ген.-маёра А. вызначыўся ў чэрв.— ліп. 1944 пры фарсіраванні Бярэзіны на Пн ад в. Палік, акружэнні мінскай групоўкі праціўніка, пры вызваленні Вілейкі, Маладзечна, Смаргоні і Вільнюса. Да 1965 у Сав. Арміі. Ганаровы грамадзянін г. Смаргонь.

**«АВАНГА́РД»**, газета, заснавана ў 1939. У час ням.-фаш. акупацыі орган Лунінецкага падп. РК КП(б)Б. Вядома 45 нумароў за 23.8.1943—7.7.1944 на бел. мове. Рэдактары А. А. *Хацкевіч*, П. П. Заяц (з 28.8.1943). Пасля вызвалення выдавалася пад той жа назвай, з 1962 «Ленінскі шлях», орган Лунінецкага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**АВЁКАЎ** Іван Аўдзеевіч (19.5.1919, в. Асінаўка Дубровенскага р-на — 17.4.1943), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1943. Скончыў ваен. авіяцыйныя школы лётчыкаў-назіральнікаў (1939), пілотаў (1940). З чэрв. 1941 на Паўд.-Зах., Зах., Цэнтр. франтах, удзельнік абароны Масквы, Тулы. Камандзір эскадрыллі знішчальнага авіяпалка, капітан, зрабіў 178 баявых вылетаў, збіў асабіста 15 самалётаў праціўніка, разам з вядзёным — 6, 1 самалёт тараніў, знішчыў на аэрадромах 23. Пахаваны ў г. Данкоў Ліпецкай вобл. ў брацкай магіле.

**АВЕ́РЧАНКА** Мікалай Іванавіч (18.12.1922, в. Майсеенкі Гарадоцкага р-на — 4.7.1960), Герой Сав. Саюза (1946). З чэрв. 1941 на Паўд.-Зах., Закаўказскім, Паўн.-Каўказскім, 3-м і 4-м Украінскіх, 1-м Бел. франтах. Камандзір гарматы ст. сяржант А. вызначыўся ў баях на Одэры і ў Берліне: 14.4.1945 разлік гарматы пад яго камандаваннем знішчыў 4 варожыя кулямёты, дзот, каля 20 гітлераўцаў; 24.4.1945 у ліку першых фарсіраваў р. Шпрэ, знішчыў 3 кулямёты; 27.4.1945 з разлікам у рукапашным баі знішчыў 10 гітлераўцаў, 22 узяў у палон. Да 1954 у Сав. Арміі.

**АВЯР'Я́НАЎ** Мікалай Піліпавіч (1912, в. Негаўка Буда-Кашалёўскага р-на — 5.10.1942), герой Вял. Айч. вайны. Чл. КПСС з 1942. З чэрв. 1941 на Зах., Данскім франтах. 5.10.1942 на Пд ад хутара Хаванскі Серафімовіцкага р-на Сталінградскай вобл. першы падабраўся да дзота праціўніка і закідаў гранатамі. Пры блакіраванні другога дзота ў рашаючы момант бою закрыў амбразуру сваім целам. Пасмяротна ўзнаг. ордэнам Чырв. Сцяга. У г. Серафімовіч імем М. П. Авяр'янава названа вуліца.

**АГІНСКІ БОЙ 1942** паміж *партызанскім атрадам імя М. А. Шчорса* і ням.-фаш. захопнікамі на Агінскім канале ў Целяханскім р-не 13.9.1942. У час правядзення гітлераўцамі карнай аперацыі *«Балотная ліхаманка»* праз зону блакады ішоў баявым рэйдам у Пінскую вобл. партыз. атрад імя Шчорса, які прыняў на сябе ўдар карнікаў. Першая сутычка партызан з гітлераўцамі адбылася 10.9.1942 у в. Дабромысль Косаўскага р-на. 11 вер. партыз. атрад вёў 10 гадзін бой з намнога большымі сіламі праціўніка ў в. Вяда Целяханскага р-на, а затым арганізавана адыход. Выкарыстоўваючы лясіста-балоцістую мясцовасць і знішчыўшы частку свайго абозу, партызаны адарваліся ад ворага і вырашылі прабівацца да Агінскага канала, які злучаў Выганаўскае воз. з р. Шчара. На досвітку 13.9.1942 партыз. атрад выйшаў да 10-га шлюза Агінскага канала, захопленага карнікамі (каля 100 гітлераўцаў). Група партызан перайшла ўброд Шчару, ударыла ў фланг праціўніка і вымусіла яго адысці. Адначасова асн. сілы партызан атакавалі ворага і ў выніку 5-гадзіннага бою знішчылі больш за 60 карнікаў, прабіўся сабе выйсце з блакады. Партызаны захапілі 2 кулямёты, 5 аўтаматаў, 15 вінтовак, вял. колькасць боепрыпасаў. У ходзе бою загінула 5 партызан. *М. Ф. Шумейка.*

**АГРА́РНАЯ ПАЛІ́ТЫКА** нямецка-фашысцкіх захопнікаў на Беларусі, сістэма мер, накіраваных на ліквідацыю сацыяліст. і аднаўленне капіталістычных вытворчых адносін у сельскай гаспадарцы, на выкарыстанне яго рэсурсаў у інтарэсах вайны, на абрабаванне і знішчэнне сельскага насельніцтва, на ваенкалапізацыю захопленых тэрыторый. Адпавядала агульнаму характару фаш. *акупацыйнага рэжыму.*

У зах. абласцях БССР, дзе толькі ў



1939 была аднаўлена Савецкая ўлада і пачалася перабудова сельскай гаспадаркі на сацыяліст. лад, гітлераўцы адразу ж знішчылі ўсе калгасы і саўгасы, захапілі грамадскую маёмасць, жорстка распраўляліся з старшынямі калгасаў і сельскімі актывістамі. Тут акупанты адкрыта рэстаўрыравалі капіталістычныя парадкі, без маскіроўкі і без агаворак насаджалі памешчыкія маёнткі і кулацкія гаспадаркі, рабавалі і эксплуатавалі шырокія масы сельскіх працаўнікоў. Усяго на тэр.


І. А. Авекаў. М. І. Аверчанка.

заходніх абласцей Беларусі (па няпоўных даных) было створана 1509 маёнткаў. У тых акупіраваных сав. раёнах, дзе ў вёсцы даўно склалася і перамагла сацыяліст. сістэма, дзе сялянства на ўласным вопыце пераканалася ў перавагах калгасаў перад аднаасобным гаспадараннем, фашысты пачалі праводзіць сваю А. п. з дэмагагічным каварствам і маскіроўкай. У дакументах фаш. рэйха неаднаразова падкрэслівалася неабходнасць з «гаспадарчых меркаванняў» у гэтых раёнах накуль што не распускаць калгасы і не праводзіць раздзел зямлі. Там акупанты на некаторы час нават захавалі пасады старшынь, брыгадзіраў, афіцыйна не распускалі праўленні, рэвізійныя камісіі. Каб без перашкод сабраць для сябе багаты ўраджай 1941 і скарыстаць для фаш. Германіі ўсю калгасную жывёлу і маёмасць, гітлераўцы патрабавалі ад кожнага калгасніка заставацца на месцы сваёй працы, не распускаць грамадскіх гаспадарак, не дапускаць рабавання і разбазарвання харчовых прадуктаў і знішчэння машын. Такія «калгасы», пад парадкаваныя фаш. акупацыйным уладам, адразу ж страцілі сацыяліст. характар, таму што ўся зямля, увесь калгасны інвентар і жывёла былі абвешчаны ўласнасцю германскай дзяржавы.

У адпаведнасці са зваротамі, заклікамі і ўказаннямі ЦК ВКП(б) і Сав. ўрада вялікую паліт. і арганізатарскую работу па актывізацыі барацьбы сялянства супраць А. п. акупантаў разгарнулі падп. парт. органы і арг-цыі, камуністы і камсамольцы, беспарт. сельскія актывісты. Яны распаўсюджвалі сярод сялян лістоўкі і перадавалі змест сав. радыёперадач, заклікалі падпальваць свірны з грамадскім збожжам, знішчаць сельгаспрадукты, рэзаць грамадскую жывёлу, дзяліць і хаваць збожжа, зрываць збор ураджаю. Дапамогу сельскаму насельніцтву ў барацьбе з фаш. А. п. аказвалі парты-

заны, якія захоплівалі нарабаваны гітлераўцамі харч і жывёлу і вярталі яго сялянам, грамілі вясковыя і валасныя ўправы, паліцэйскія ўчасткі, склады ворага, дапамагалі сельскім працаўнікам вызваліцца ад штодзённага кантролю з боку акупацыйных улад і сістэматычнага рабавання, хаваць жывёлу і харчы. Сяляне забяспечвалі партызан харчамі, адзеннем і самі ўступалі ў рады нар. мсціўцаў. У выніку толькі з ген. акругі «Беларусь» акупанты не дабралі ў параўнанні з запланаваным на 1941—42 гаспадарчы год больш як 60 % збожжа, 55 % тлушчу, 30 % масла і алею.

У гэтых умовах акупанты вырашылі некалькі змяніць сваю тактыку. Не адмаўляючыся ад выкарыстоўвання калектывісцкіх традыцый сав. сялян, яны разам з тым пасля разгрому пад Масквой і перспектывы зацяжной вайны перайшлі да прапаганды і адваўлення сярод калгаснікаў прыватна-ўласніцкіх тэндэнцый. З гэтай мэтай міністр акупіраваных усходніх абласцей Розенберг 16.2.1942 выдаў дырэктыву «аб новым парадку землекарыстання». У ёй дэмагагічна аб'яўлялася аб адмене калгаснай сістэмы і аб пераўтварэнні калгасаў у абшчынныя гаспадаркі («абшчыны»), хаця фактычна калгасы ўжо былі ліквідаваны ў пачатку ням.-фаш. акупацыі. Галоўным у «новым парадку землекарыстання» былі наступныя палажэнні: «зямля абшчынных гаспадарак апрацоўваецца сумесна», «усе працаздольныя члены абшчынных гаспадарак абавязаны сумесна працаваць», «кіраўнік абшчыннай гаспадаркі з'яўляецца адказным за дакладнае выкананне абавязацельстваў па здачы падатку». Мэта гэтай дырэктывы — устанавіць у вёсцы кругавую паруку, калектыўную адказнасць сялян перад акупантамі за выкананне іх распараджэнняў. У дырэктыве прадугледжвалася ператварэнне ўсіх былых саўгасаў у германскія дзярж. маёнткі, а МТС — у сельскагаспадарчыя пункты. Каб выклікаць у сав. сялян прыватнаўласніцкія пачуцці, за асобнымі дварамі замацоўваліся прысядзібныя ўчасткі, частка гаспадарчага інвентару і пабудоў. У дырэктыве даволі невыразна гаварылася аб пераходзе ў далейшым да індывідуальнага землекарыстання і тут жа ўдакладнялася, што зямлі не атрымаюць тыя сяляне, якія не выконваюць распараджэнняў ням. улад і «палітычна ненадзейныя». Тыя ж, хто атрымае зямлю ў індывідуальнае карыстанне, павінны будуць аб'ядвацца ў землеробчыя таварыствы, каб супольна працаваць і здаваць натуральны падатак «землеробчага таварыства ў цэлым».

Аднак усенар. барацьба супраць акупантаў бесперапынна нарастала, асабліва пасля паражэння гітлераўскіх войск пад Сталінградам. Актывізаваўся сабатаж сялянствам фаш. А. п., павялічылася колькасць падп. парт. органаў і арг-цый, стварыліся магутныя партыз. краі і зоны. Дзейнасць фаш. акупацыйнай адміністрацыі ў многіх раёнах была паралізавана масавай барацьбой нар. мсціўцаў. Партызаны грамілі і ліквідоўвалі дзярж. маёнткі, сваю дзейнасць спынялі «абшчынныя гаспадаркі», і «новы парадак землекарыстання» цярпеў правал. У сувязі з гэтым гітлераўцы пайшлі на далейшае распальванне прыватна-ўласніцкіх інстынктаў сялян.

3.6.1943 Розенберг выдаў «Дэкларацыю аб сялянскім праве ўласнасці», абяцаючы зямлю для ўсяго «сялянскага насельніцтва». Але, як відаць з тлумачэнняў генеральнага камісара Беларусі В. Кубэ, акупанты і цяпер не спяшаліся з перадачай сялянам права ўласнасці на зямлю. Войскі Чырвонай Арміі няўхільна набліжаліся да Беларусі, і з вер. 1943 пачалося яе вызваленне, што садзейнічала яшчэ большай актывізацыі ўсенар. барацьбы ў тыле ворага, у т. л. ўпартаму супраціўленню сялянства ўсім разнавіднасцям аграрных парадкаў акупантаў. Новы дэмагагічны жэст Розенберга таксама не даў чакаемых вынікаў.

Гітлераўцы настаянна і адкрыта рабавалі сялян, не лічачыся з устаноўленымі аграрнымі парадкамі. Кожны сялянскі двор явы абкладалі рознымі натуральнымі і грашовымі падаткамі. У час карных экспедыцый фашысты не толькі забіралі ўсю жывёлу і сельскагаспадарчую прадукцыю, але знішчалі населеныя пункты, забівалі, спальвалі ці вывозілі ў няволю сельскіх жыхароў.

За гады фаш. акупацыі гітлераўцы разбурылі і спалілі на тэр. Беларусі 9200 вёсак (з іх 511 не адноўлена пасля вайны), вывезлі ці знішчылі 9 тыс. трактароў, 1100 камбайнаў, больш як 2 млн. галоў буйной рагатай жывёлы, 2,8 млн. свіней, 2,9 млн. авечак і коз, каля 1 млн. коней, больш за 8 млн. галоў птушкі, знішчылі амаль 33 тыс. га садоў, больш як 2,8 млн. га збожжавых, бульбы і інш. сельскагаспадарчых культур. У выніку гаспадарання акупантаў пасяўная плошча ў 1944 скарацілася ў параўнанні з 1940 на 43 %. Толькі сацыяліст. сельскай гаспадарцы БССР гітлераўскія захопнікі нанеслі страты на 48,1 млрд. руб. (у даваен. цэнах).

Нягледзячы на дэмагогію і зверствы фаш. акупантаў, іх А. п. на Беларусі пацярпела правал: яны не змаглі настроіць сялян супраць калгаснай сістэмы і сацыяліст. ладу, у цэлым ім не ўдалося шляхам ашуканства і шантажу выкарыстаць традыцыі сацыяліст. калектывізму сав. сялянства пры насаджэнні абшчынна-прыгонніцкіх парадкаў у вёсцы, каб выканаць свае грабежніцкія планы па «нарыхтоўцы» сельскагаспадарчай прадукцыі. За гады акупацыі з генеральнай акругі «Беларусь» гітлераўцы змаглі атрымаць збожжавых культур толькі 25—40 % ад запланаваных імі паставак. Іх А. п. на тэрыторыі Беларусі была палітыкай здзекаў і гвалту над савецкімі людзьмі і ўжо з самага пачатку вызвала супраціўленне з боку сялянства Беларусі. *А. І. Залескі.*

**АГУРКІ́**, вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1 км на Пд ад в. Бяляны Асвейскага пасялковага Савета. Перад вайной у ёй жыло 65 чал. У сак. 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»,* фашысты загубілі 36 жыхароў, вёску (16 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1982 на месцы вёскі пастаўлены мемарыяльны знак. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**АДЗІНА́ЦЦАТАЯ А́РМІЯ,** сфарміравана ў 1939 у Бел. асобай ваен. акрузе. У вер. 1939 у складзе Бел. фронту ўдзельнічала ў вызваленні Зах. Беларусі. З 1940 у складзе Прыбалтыйскай ваен. акругі.

Да пач. вайны ў склад арміі ўваходзілі 16-ы і 29-ы стралк. карпусы, 23-я, 126-я і 128-я стралк. дывізіі, 3-і механізаваны корпус, 42-і і 46-ы ўмацаваныя раёны і інш.

З 22.6.1941 у складзе Паўн.-Зах. фронту вяла абарончыя баі на З і ПдЗ ад Каўнаса і Вільнюса, у раёнах Себежа, Невеля, удзельнічала ў аперацыях фронту ў раёнах Старой Русы і Дзямянска. У крас.— чэрв. 1943 перафарміравана: у яе склад увайшлі 53-і стралк. корпус, 4-я, 96, 260, 273, 323-я стралк. дывізіі, 225-ы танк. полк і інш. З 12 ліп. армія ў складзе Зах., з 30 ліп.— Бранскага франтоў удзельнічала ў Арлоўскай аперацыі 1943 і ў *Бранскай аперацыі 1943.* 24.10.1943 11-я армія перададзена ў склад Бел. фронту. Удзельнічала ў *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943,* дзе ва ўзаемадзеянні з войскамі 48-й арміі вызваліла першы абл. цэнтр БССР — Гомель.

У снеж. 1943 войскі арміі перададзены ў склад 48-й і 63-й армій, упраўленне 11-й арміі расфарміравана. Камандуючы: ген.-лейт. В. І. Марозаў (чэрв. 1941— ліст. 1942), ген.-лейт. П. А. Курачкін (ліст. 1942 — сак. 1943), ген.-лейт. А. І. Лапацін (сак.— ліп. 1943), ген.-лейт. І. І. Фядзюнінскі (ліп.— снеж. 1943). *М. І. Камінскі.*

**АДЗІНА́ЦЦАТАЯ ГВАРДЗЕ́ЙСКАЯ А́РМІЯ,** утворана 16.4.1943 шляхам пераўтварэння 16-й арміі. Складалася з 2 стралк. карпусаў і 1 дывізіі. Уваходзіла ў склад Зах., з 30 ліп.— Бранскага, з 10.10.1943 — Прыбалтыйскага, з 20.10.1943 — 2-га і 1-га Прыбалтыйскіх франтоў. У крас.— маі 1944 у рэзерве Стаўкі Вярх. Галоўнакамандавання. З 24.5.1944 да 15.8.1945 армія знаходзілася ў складзе 3-га Бел. фронту (толькі ў лют. 1945 была 2 тыдні ў складзе 1-га Прыбалтыйскага фронту). Удзельнічала ў Арлоўскай аперацыі 1943 і *Бранскай аперацыі 1943,* дзе ў яе складзе былі 8-ы, 16, 35-ы гвардз. стралк. карпусы, 5-ы танк. корпус і 108-я стралк. дывізія. За ўдзел у *Гарадоцкай аперацыі 1943* яе 4 стралк. дывізіям былі прысвоены ганаровыя найменні «Гарадоцкіх». Летам 1944 армія ў складзе 3 тых самых стралк. карпусаў, 2-га Тацынскага танк. корпуса, 120-й танк. брыгады, 4 танк. і 3 самаходных арт. палкоў удзельнічала ў Бел. аперацыі. Яна прарвала глыбока эшаланіраваную абарону ворага на Аршанскім напрамку і ва ўзаемадзеянні з інш. арміямі ўдзельнічала ў вызваленні гарадоў

Оршы, Барысава, Мінска, Маладзечна, Алітуса (гл. *Віцебска-Аршанская аперацыя 1944, Мінская аперацыя 1944, Вільнюская аперацыя 1944*) і інш. населеных пунктаў Бел. і Літоўскай ССР. Рад часцей і злучэнняў арміі, якія вызначыліся ў баях пры вызваленні гарадоў БССР, былі ўдастоены ганаровых найменняў і ўзнагароджаны ордэнамі. Падраздзяленні арміі вызначыліся пры фарсіраванні Нёмана ў Літве, захапілі і ўтрымалі плацдарм на левым беразе ракі. У далейшым армія вяла баі ва Усх. Прусіі, дзе ўдзельнічала ў Гумбіненскай, Усх.-Прускай і Зямландскай аперацыях. У канцы вайны яна ўваходзіла ў склад Зямландскай групы войск фронту.

За час вайны армія вызваліла 14 буйных гарадоў, удзельнічала ў 21 наступальнай і абарончай аперацыях. 97 воінам арміі прысвоена званне Героя Сав. Саюза, дзесяткі тысяч узнагароджаны ордэнамі і медалямі СССР. Камандуючыя: ген.-лейт., з 27.8.1943 ген.-палк. І. Х. Баграмян (крас.— ліст. 1943), ген.-маёр А. С. Ксенафонтаў (ліст. 1943), ген.-лейт., з 28.6.1944 ген.-палк. К. М. Галіцкі (ліст. 1943 — да канца вайны).

*М. І. Камінскі.*

**АДЗІНЦО́Ў** (А д з і н е ц) Лявонцій Яфімавіч (14.7.1891, г. п. Акцябрскі — 3.2.1943), удзельнік барацьбы за Сав. ўладу на Беларусі, грамадз. вайны; адзін з арганізатараў *Мінскага партыйнага падполля*. Чл. КПСС з 1918. Арганізатар чырвонагвардз. атрадаў у Рудобелцы Бабруйскага павета (1917), чл. к-та Рудабельскай падп. парт. арг-цыі (1918), камандзір партыз. атрада (1919—20). З 1924 нам. наркома сац. забеспячэння БССР, заг. сакратарыята ЦВК БССР і на інш. кіруючых пасадах. У Айч. вайну ўдзельнічаў у стварэнні і дзейнасці Мінскага парт. падполля. На яго кватэры праводзіліся пасяджэнні Мінскага падп. гаркома КП(б)Б, нарады падпольшчыкаў, тут хавалі зброю, боепрыпасы, нелегальную л-ру, медыкаменты. 24.10.1942 арыштаваны, спалены ў Трасцянцы. Яго імем названы вуліцы ў Мінску і ў г. п. Акцябрскі.

**АДНАЎЛЕ́ННЕ НАРО́ДНАЙ ГАСПАДА́РКІ БССР У 1943—45.** Летам 1944 БССР была поўнасцю вызвалена ад ням.-фаш. захопнікаў. Народнай гаспадарцы рэспублікі вораг нанёс велізарныя *матэрыяльныя страты*. Толькі прамыя эканамічныя страты БССР склалі 75 млрд. руб. (у цэнах 1941). Перад бел. народам паўстала задача гіганцкай цяжкасці — у сціслы тэрмін, ва ўмовах працягвання вайны з яе нягодамі, недахопам самых элементарных для жыццядзейнасці сродкаў, аднавіць важнейшыя звенні нар. гаспадаркі, каб хутчэй стварыць неабходныя ўмовы для пацярпеўшага насельніцтва і аказаць пасільную дапамогу фронту. Аднаўленне вызваленай ад ворага сав. тэрыторыі, у т. л. БССР, з'явілася адной з найважнейшых эканамічных, паліт., ваенна-гаспадарчых задач. Агульны напрамак гэтай работы вызначылі пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР «Аб неадкладных мерах па аднаўленню гаспадаркі ў раёнах, вызваленых ад нямецкай акупацыі» (21.8.1943) і «Аб бліжэйшых задачах Саўнаркома БССР і ЦК КП(б) Беларусі» (1.1.1944) і інш. На аднаўленне нар. гаспадаркі былі выдзелены буйныя грашовыя асігнаванні: у 1943 саюзны ўрад выдзеліў Беларусі 37 млн., у 1944—490,8 млн., у 1945—1200 млн. руб. Матэрыяльная база аднаўлення Беларусі фарміравалася за кошт цэнтралізаваных паставак, рээвакуацыі абсталявання бел. прадпрыемстваў і матэрыяльна-тэхнічных каштоўнасцей з сав. тылу. а таксама за кошт дапамогі брацкіх народаў Сав. Саюза. У 1944—45 дзяржава накіравала на Беларусь тысячы кваліфікаваных спецыялістаў, 38,2 тыс. адзінак тэхналагічнага абсталявання (у т. л. 11 726 металарэжучых станкоў), будаўнічыя матэрыялы (20 тыс. т цэменту, 450 тыс. $м^2$ будаўнічага лесу, 30 тыс. $м^2$ шкла, 30 т цвікоў, 597 вагонаў разнастайных матэрыялаў), сельгастэхніку (больш за 18 тыс. разнастайных машын, 4 тыс. т паліва, 420 трактароў, запасных дэталей на суму 2,5 млн. руб. і г. д.), гатункавае насенне, угнаенні, сотні тысяч галоў жывёлы і інш. Калгаснае сялянства рэспублікі было поўнасцю вызвалена ад выплаты ўсіх падаткаў. Вял. практычную дапамогу аказалі бел. народу працоўныя сав. тылу. Прамысловыя прадпрыемствы краіны адшуквалі ў сябе дадатковыя рэзервы, рабілі для бел. з-даў і ф-к разнастайную прадукцыю. Працоўныя калектывы Чэлябінска, Свярдлоўска, Новасібірска, Омска, Томска, Кемерава, Алтайскага і Краснаярскага краёў накіроўвалі ў БССР эшалоны з прамысловым абсталяваннем, металам, змазачнымі і паліўнымі матэрыяламі, інструментам, будаўнічымі дэталямі і інш. грузамі. Ад працоўных Горкаўскай, Яраслаўскай і інш. абласцей у 1944 паступіла 487 вагонаў грузаў. Працоўныя многіх абласцей краіны бралі індывідуальнае шэфства над гарадамі і раёнамі Беларусі. Рабочыя Мардоўскай АССР даслалі ў 1944 падшэфнаму Гомелю некалькі эшалонаў з заводскім абсталяваннем, харчамі, абсталяваннем для бальніц, дзіцячых садоў, школ, бібліятэк. З дапамогаю шэфаў у БССР было абсталявана 36 раённых прамкамбінатаў, Гомельскі ліцейна-механічны, Мінскі аўтарамонтны, Крычаўскі цэментны з-ды. Насельніцтва многіх усх. раёнаў краіны арганізавала збор сродкаў для гарадоў і вёсак Беларусі. У кастр. 1944 моладзь Туркменіі адправіла разбуранаму Мінску эшалон з падарункамі, працоўныя Ульянаўскай вобл. сабралі больш за 800 тыс. руб. для аднаўлення Мазыра. У цэлым у 1944—45 бел. народ атрымаў ад брацкіх рэспублік разнастайных матэрыяльна-тэхнічных каштоўнасцей на суму 8,2 млн. руб. Вял. ўклад у аднаўленне разбуранай Беларусі зрабілі і вайсковыя падраздзяленні. Яны выдзялялі з сваіх запасаў разнастайныя матэрыяльныя рэсурсы, транспартныя сродкі, паліва, аднаўлялі чыг. масты, праводзілі ў парадак шашэйныя і грунтавыя дарогі, дапамагалі калгасам і саўгасам праводзіць палявыя работы.

Працэс аднаўлення Беларусі ў першую чаргу пачаўся з адраджэння тых прадпрыемстваў, якія садзейнічалі нармалізацыі гаспадарчага жыцця. Адраджалася энергетычная гаспадарка, магутнасць якой у рэспубліцы ў 1945 дасягнула 59,2 тыс. квт (каля 50 % даваен. ўзроўню), транспарт, будаваліся бытавыя майстэрні, арцелі, прадпрыемствы грамадскага харчавання, адчыняліся дзіцячыя дамы, бальніцы, школы. Сістэматычна праводзіліся масавыя працоўныя нядзельнікі па расчыстцы руін, па аднаўленню жыллёва-камунальнай і гар. гаспадаркі. Узнімаліся з руін цэхі буйнейшых бел. прадпрыемстваў: «Гомсельмаша», мінскіх станкабудаўнічых з-даў імя Кірава і імя Варашылава, вагонарамонтнага з-да




Плакат «Маладыя мінчане! Аддамо ўсе сілы на адбудову роднага горада!».

імя Мяснікова, віцебскіх панчошна-трыкатажнай ф-кі імя КІМ, станкабудаўнічых з-даў імя Камінтэрна і імя Кірава, магілёўскіх машынабудаўнічых з-даў і інш. Адноўленыя прадпрыемствы ўключаліся ў работу на карысць фронту: рамантавалі баявую тэхніку, ваен. амуніцыю, выпускалі салдацкі абутак, шылі абмундзіраванне, выпякалі хлеб. Да мая 1945 у БССР ужо было ўведзена ў строй 12 000 прамысловых аб'ектаў, у т. л. 8 000 прадпрыемстваў і 4 000 арцеляў і майстэрняў. Аб'ём іх прадукцыі склаў

20,4 % даваен. ўзроўню. Паскоранымі тэмпамі аднаўляўся транспарт — чыгуначны і рачны. Актыўны ўдзел прынялі ў гэтай рабоце ваенна-аднаўленчыя аддзяленні і спец. фарміраванні, Народны камісарыят шляхоў зносін БССР, тылавыя часці франтоў, мясцовае насельніцтва. Праз Беларусь ішлі галоўныя транспартныя магістралі, ад іх работы ў многім залежаў лёс наступальных аперацый сав. войск у Польшчы, Усх. Прусіі, над Берлінам. Разумеючы высокую меру гэтай адказнасці, работы вяліся кругласутачна. Да лют. 1945 было поўнасцю адноўлена больш за 10 тыс. км гал. і станцыйных шляхоў, усе асн. віды чыг. службаў; дэпо, пабудавана 1735 чыг. мастоў. Аб'ём перавозак грузаў абарончага прызначэння сіламі транспартнікаў Беларусі на завяршальным этапе вайны склаў 9,2 млн. т. Расла колькасць рабочых і служачых у нар. гаспадарцы, у 1945 яна склала 610 тыс. чал. (54 % даваен. ўзроўню). Значная матэрыяльная дапамога аказвалася калгасам і саўгасам (грашовымі пазыкамі, насеннем, фуражом, пагалоўем жывёлы, запчасткамі, лесам, будматэрыяламі і г. д.). У калгасы і саўгасы паступіла больш за 1013,6 тыс. галоў жывёлы. Да моманту сканчэння вайны 95 % даваен. калгасаў і саўгасаў былі практычна адноўлены, пачалі дзейнічаць 300 МТС. Паступова адраджаліся і пасяўныя плошчы: вясной 1945 яны дасягнулі 73,8 % даваенных. Калгасы і саўгасы рэспублікі па асабістай ініцыятыве адлічвалі дзяржаве 67 % загатаванага збожжа і 94 % агароднін. З асабістых падсобных гаспадарак у дапамогу фронту калгаснікі і рабочыя саўгасаў таксама здалі 88 % нарыхтаванага малака, 79 жывёлы і птушкі, 97 яек, 56 % бульбы.

Хутка адраджалася жыллёва-камунальная гаспадарка Беларусі. У 1945 у гарадах было адноўлена 6515 тыс. м² жылой плошчы, у сельскай мясцовасці — больш за 4960 м²; з зямлянак у дамы перасяліліся больш за 200 тыс. сямей. Адначасова ішоў працэс адраджэння і інш. галін невытворчай сферы: узнавілі работу ўстановы навукі (АН БССР у складзе 8 НДІ) і культуры, бальніцы, школы. У 1945 у БССР было адкрыта 90 % даваен. колькасці школ, 24 ВНУ, 94 сярэднія спец. навучальныя ўстановы, больш за 2380 хат-чытальняў, 193 раённыя і сельскія клубы, 60 % даваен. бібліятэк, працавала 8 музеяў, выходзіла 197 газет і часопісаў. У 1944—45 на будаўніцтва жылых дамоў, гандлёвых і камунальных прадпрыемстваў, устаноў навукі, культуры, асветы і аховы здароўя выдзелена 45 млн. руб. дзярж. і кааператыўных сродкаў.

У перыяд аднаўлення ў 1943—45 праводзіўся масавы збор сродкаў у *фонд абароны*. Працоўныя Беларусі сабралі больш за 5 млн. рублёў грашыма, аблігацыямі, золатам на будаўніцтва баявых самалётаў, танкавых калон, санітарных эшалонаў, а таксама вял. колькасць прадуктаў, цёплай вопраткі і абутку, падарункаў, якія былі перададзены ў фонд Чырвонай Арміі. У цяжкіх умовах вайны ва ўсіх сферах нар. гаспадаркі Беларусі былі знойдзены найбольш аптымальныя шляхі і формы рацыянальнага гаспадарання, якія забяспечылі аднаўленне і пераўтварэнне бел. эканомікі ў адну з дадатковых крыніц узмацнення зладжанай ваен. гаспадаркі краіны на завяршальным этапе Вял. Айч. вайны. *Г. І. Аляхновіч.*

Л. Я. Адзінцоў. С. І. Азараў.





Мемарыяльны комплекс вязням Азарыцкіх лагераў смерці.

**АДРАДЖЭННЕ**, вёска на тэр. Рагачоўскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 4 км на Пд ад в. Ходасавічы Збароўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 140 чал. 23.9.1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 61 жыхара, вёску (25 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1970 на магіле ахвяр фашызму ўстаноўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**АЗАРАЎ** Сямён Іванавіч (31.1.1909, в. Вілейка Чавускага р-на — 8.5. 1942), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1937. У Чырвонай Арміі з 1928. Скончыў Ленінградскую ваен. пяхотную школу (1931). Удзельнік сав.-фінляндскай вайны 1939—40. У Айч. вайну полк пад камандаваннем падпалк. А. вызначыўся ў баях пад Ленінградам і ў Карэліі. Зімой і вясной 1942 у баях на масельгскім, потым кесценьгаўскім напрамках полк пасляхова адбіваў атакі ворага, утрымліваў стратэгічна важныя назіцыі. Загінуў у баі на тэр. Карэльскай АССР. Яго імем названы вуліцы ў г. Чавусы, г. п. Кесценьга Карэльскай АССР.

**АЗАРЦЫ**, вёска на тэр. Докшыцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 6 км на ПдЗ ад г. Докшыцы. Перад вайной у ёй жыло 52 чал. 12.8.1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 27 жыхароў, 4 з іх жывымі кінулі ў агонь, вёску (9 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1979 на месцы знішчэння жыхароў пастаўлены помнік.

**АЗАРЫЦКІ БОЙ 1942**, бой партызан атрадаў «Чырвоны Кастрычнік» А. Ф. Каваленкі, І. Р. Жулегі (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 123-я Акцябрская імя 25-годдзя БССР*), А. Ц. Міхайлоўскага (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 125-я Капаткевіцкая*) супраць ням. фаш. акупантаў у в. Азарычы Даманавіцкага р-на 17.2.1942. У в. Азарычы размяшчаўся гарнізон ворага з 70 чал., знаходзіліся склады з хлебам, якія прызначаўся для адпраўкі ў Германію. Знішчыўшы гарнізон у в. Валасовічы, партызаны накіраваліся да в. Азарычы. Атрад Каваленкі прыкрываў дарогу Кабыльшчына — Азарычы, а ўзвод атрада «Чырвоны Кастрычнік» — дарогу Азарычы — Валасовічы. У 7 гадзін раніцы атрады скрытна занялі зах. частку Азарыч, ударныя групы атакавалі каравульнае памяшканне праціўніка. У выніку 3-гадзіннага бою партызаны разграмілі гарнізон, знішчылі каля 40 салдат і афіцэраў, захапілі 2 станковыя і 1 ручны кулямёты, 35 вінтовак, каля 50 тыс. патронаў, раздалі насельніцтву 850 т збожжа. З боку партызан страт не было. Кіраваў аперацыяй Герой Сав. Саюза Ф. І. *Паўлоўскі.* *М. Ф. Шумейка.*

**АЗАРЫЦКІЯ ЛАГЕРЫ СМЕРЦІ.** Створаны ням.-фаш. захопнікамі ў пач. сак. 1944 у б. Даманавіцкім р-не. Па загаду камандуючага 9-й ням. арміяй ген. Харпе недалёка ад пярэдняга краю абароны каля г. п. Азарычы, в. Дзерць і Падасіннік створаны 3 канцлагеры. Пад выглядам эвакуацыі сюды прывезена больш за 50 тыс. непрацаздольных сав. грамадзян. Сярод вязняў гітлераўцы размясцілі сыпна-тыфозных хворых з мэтай распаўсюдзіць эпідэмію на часці Чырвонай Арміі, якія наступалі. Для па-

шырэння эпідэміі сыпна-тыфозных хворых пераводзілі з аднаго лагера ў другі. Зняволеных трымалі на адкрытых балоцістых мясцінах (пабудоў нават лёгкага тыпу на тэр. лагераў не было), абгароджаных калючым дротам. Вакол канцлагераў былі пастаўлены кулямётныя вышкі, падыходы замініраваны. Вязняў марылі голадам, забаранялі раскладаць агні, яны вымушаны былі піць балотную ваду. За пратэст расстрэльвалі. Да дня вызвалення 18—19.3.1944 у жывых засталося 33 480 чал., з іх дзяцей да 13 гадоў 15 960, жанчын 13 072, старых 4448 чал. На месцы лагера каля г. п. Азарычы мемар. комплекс.

*З. І. Бялуга.*

**АЗА́РЫЧЫ,** гарадскі пасёлак у Калінкавіцкім р-не, на р. Віша, за 42 км на ПнЗ ад Калінкавіч, за 22 км ад чыг. ст. Халоднікі на лініі Жлобін — Калінкавічы, на аўтадарозе Калінкавічы — Бабруйск. У 1935—60 цэнтр Даманавіцкага р-на. У ліп. 1941 акупіраваны фаш. захопнікамі, якія загубілі ў раёне 869 мірных жыхароў, стварылі *Азарыцкія лагеры смерці.* У перыяд фаш. акупацыі ў раёне дзейнічалі Даманавіцкія падп. РК КП(б)Б (крас.— 18.11.1943) і ЛКСМБ (жн. 1942—18.11.1943), партыз. брыгады 101-я Даманавіцкая, 210-я Канаткевіцкая, Васілевіцкая імя Панамарэнкі, асобны атрад А. Ф. Сарафанава (гл. адпаведныя артыкулы). У лют. 1942 група партыз. атрадаў разграміла фаш. гарнізон у А. (гл. *Азарыцкі бой 1942*). У канцы 1943 фашысты ператварылі А. ў моцны апорны пункт сваёй абарончай лініі. Сав. воіны ў цяжкім баі зламалі супраціўленне фашыстаў. 20.1.1944 А. вызвалены часцямі 37-й гвардз. . стралк. дывізіі (ген.-маёр І. І. Санкоўскі) 18-га стралк. корпуса 65-й арміі Бел. фронту ў ходзе *Калінкавіцка-Мазырскай аперацыі 1944.* У А. брацкія магілы і магілкі сав. воінаў, якія загінулі пры вызваленні пасёлка ад ням.-фаш. захопнікаў, на іх устаноўлены помнікі.

*М. І. Камінскі.*

**АЗМІ́ЦЕЛЬ** Фёдар Фёдаравіч (13.8. 1918, с. Лінавіцк Мартукскага р-на Акцюбінскай вобл. — 15.6.1944), удзельнік партыз. руху ў Віцебскай і Мінскай абласцях, Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС. У пач. вайны на Паўн. фронце, удзельнік баёў пад Масквой. У лютым — вер. 1942 камандзір партыз. атрада асобага прызначэння, які дзейнічаў у трохвугольніку Орша — Віцебск — Смаленск. З мая 1943 зноў у тыле ворага, камандзір партыз. атрада «Гром» (гл. *Партызанскі атрад «Артур»*). У чэрв. 1944 у час варожай блакады партыз. брыгад каля воз. Палік ст. лейт. А. камандаваў штурмавой групай па прарыву акружэння, быў цяжка паранены. Каб не трапіць у палон, падарваў сябе гранатай. Пахаваны ў в. Макаўе Барысаўскага р-на. У г. Новалукомль яго імем названы бульвар, дзе А. пастаўлены помнік.

**АЗО́НЧЫК** Аляксандр Сямёнавіч (партыз. псеўданім Л я л і н; н. 10.8.1908, в. Яцкавічы Мядзельскага р-на), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Вілейскай вобл., Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1943. У жн. 1941 арганізаваў партыз. дыверсійную групу, якая з чэрв. 1942 дзейнічала ў складзе атрада імя Будзённага. З снеж. 1943 камандзір атрада «Патрыёт» у *партызанскай брыгадзе імя С. М. Будзённага,* адначасова нач. асобага аддзела брыгады. Атрад пад яго камандаваннем правёў 439 баявых аперацый, пусціў пад адхон 47 варожых эшалонаў. У 1944—55 на сав. рабоце.

**АЗЯРА́ЎСКАЕ КАМСАМО́ЛЬСКА-МАЛАДЗЁЖНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з ліп. 1942 да ліп. 1944 у в. Азяраўцы і на тэр. Браслаўскага р-на. Аб'ядноўвала 26 чал. Кіруючае ядро: І. К. Пяткун (сакратар), К. І. Максімовіч, Э. У. Пяткун, М. А. Пяткун, А. У. Пяткун. Летам 1942 у Браславе створана падп. камсам. арг-цыя на чале з Максімовічам. Падпольшчыкі здабылі і перадалі партыз. брыгадзе імя Жукава шмат зброі, перапраўлялі ваеннапалонных да партызан. Перадавалі партызанам медыкаменты, друкарскую фарбу, паперу, радыёдэталі. Распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі. Пранікалі ў ням. гарнізоны Даўгаўпілса, Вільнюса і паведамлялі пра колькасць і размяшчэнне баявой тэхнікі ворага, папярэджвалі аб карных аперацыях. Па заданню партызан знішчалі масты, рабілі завалы на дарогах, у сак. 1944 партызаны, папярэджаныя падпольшчыкамі, захапілі ням. абоз — 45 фурманак з прадуктамі, узялі ў палон 41 гітлераўца. У в. Ахрэмаўцы Браслаўскага р-на ў гонар падп. камсам. арг-цыі на будынку школы ўстаноўлена мемар. дошка.

*Л. Л. Лубянкова.*

**АЙТЫ́КАЎ** Ізгуты Курманбаевіч (20.1. 1922, с. Таргын Уланскага р-на Усх.-Казахстанскай вобл.—25.7.1944), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1944. На фронце з мая 1942. Вызначыўся пры вызваленні Сіроцінскага р-на. 22.6.1944 каля в. Плігаўка батальён на чале з камсоргам стар-

Ф. Ф. Азміцель. А. С. Азончык.





Маці і дзіця, замучаныя гітлераўцамі ў лагеры смерці каля г. п. Азарычы. Сакавік 1944.



Трупы людзей, замучаных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў адным з Азарыцкіх лагераў смерці.

шыной А. прарваў абарону праціўніка і з баямі прайшоў па яго тыле 6 км. 3.7.1944 у ліку першых прарваўся ў Полацк, з ходу фарсіраваў Зах. Дзвіну і адбіваў контратакі праціўніка да поўнага вызвалення горада. Загінуў у баі. Яго імем названы судна Міністэрства марфлоту, вуліца ў Полацку, дзе пастаўлены яго бюст.



І. І. Акаловіч. А. К. Акуліч.

**АКАЛО́ВІЧ** Іван Ільіч (н. 15.6.1922, в. Малыя Жаберычы Крупскага р-на), поўны кавалер ордэна Славы. На фронце з 1943. Удзельнік Курскай бітвы, вызвалення Беларусі, баёў ва Усх. Прусіі. Камандзір аддзялення аўтаматчыкаў мал. сяржант А. вызначыўся: у чэрв. 1944 у час прарыву варожай абароны на ПнЗ ад Рагачова знішчыў 3 і ўзяў у палон 2 гітлераўцаў, з ахопленага агнём танка вынес параненага афіцэра; у пач. 1945 у 3-дзённых баях каля г. Гумбінен; 13—18.3.1945 пры ліквідацыі ўсх.-прускай групоўкі праціўніка ў разведцы выявіў 3 самаходныя гарматы, якія былі знішчаны. Быў паранены, але не пакінуў поле бою. Пасля вайны жыве і працуе ў г. Тулун Іркуцкай вобл.

**АКІ́МАЧКІН** Іван Піліпавіч (1910, в. Крутое Людзінаўскага р-на Калужскай вобл.— 4.7.1941), адзін з кіраўнікоў абароны Брэсцкай крэпасці. Чл. КПСС з 1940. У Чырв. Арміі з 1931, з кастр. 1939 нач. штаба 98-га асобнага процітанк. дывізіёна на тэр. Брэсцкай крэпасці. У першыя дні вайны лейт. А. арганізаваў і ўзначаліў абарону ў раёне Усх. валоў Кобрынскага ўмацавання. Цяжка паранены, трапіў у палон. Расстраляны гітлераўцамі.

**АКРУГО́ВЫ БЕЛАРУ́СКІ АНТЫФАШЫ́СЦКІ КАМІТЭ́Т БАРА́НАВІЦКАЙ ВО́БЛАСЦІ,** назва кіруючага органа *Баранавіцкай акруговай антыфашысцкай арганізацыі.*

**АКУ́ЛАЎ** Фрол Карнеевіч (н. 1.12. 1912, в. Кішчыцы Шклоўскага р-на), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Вілейскай вобл. Чл. КПСС з 1940. З 1936 працаваў на чыгунцы ў Пскове, Магілёве і інш. У ліп. 1943 накіраваны ЦК КП(б)Б у тыл ворага, у вер. 1943 — ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады «За Радзіму»,* адначасова ў вер. 1943— ліп. 1944 сакратар Шаркоўшчынскага падп. РК КП(б)Б. У 1946—74 на парт., сав і гаспадарчай рабоце.

**АКУ́ЛІЧ** Аляксандр Канстанцінавіч (15.1.1888, в. Стары Мазалаў Рагачоўскага р-на — 13.5.1961), ген.-лейт. (1940). Чл. КПСС з 1917. З 1915 у арміі, з 1917 у Чырвонай гвардыі, з 1918 у Чырвонай Арміі. Удзельнік Кастр. рэвалюцыі і грамадзянскай

ВАЕННА–АДМІНІСТРАЦЫЙНЫ ПАДЗЕЛ АКУПІРАВАНАЙ ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ (па стану на 1942 г.)

вайны. У Айч. вайну з 1941 камандзір дывізій на Волхаўскім фронце, удзельнік абароны Ленінграда. Да 1946 у Сав. Арміі.

**АКУПАЦЫ́ЙНЫ РЭЖЫ́М** нямецка-фашысцкіх захопнікаў на часова акупіраванай тэрыторыі СССР, сістэма паліт., ідэалагічных, эканамічных і ваен. мер, накіраваных на ліквідацыю сацыяліст. грамадскага і дзярж. ладу, рабаванне нацыянальных багаццяў і рэсурсаў, заняволенне і знішчэнне сав. людзей. А. р.— вынік планамернага ажыццяўлення дзярж. палітыкі фаш. Германіі. Яго ідэалагічнай асновай былі чалавеканенавісніцкія «тэорыі» нацыстаў пра «расавую перавагу» ням. нацыі над інш. народамі, пра неабходнасць расшырэння «жыццёвай прасторы» для немцаў і «права» на сусветнае панаванне «Трэцяга Рэйха» — Вял. Германскай імперыі, нацыяналізм у самых варварскіх формах і праяўленнях.

Акупацыйная палітыка ў адносінах да СССР была загадзя распрацавана гітлераўцамі. План *«Барбароса»* (1940) вызначыў стратэгію і тактыку нападу на СССР, генеральны план *«Ост»* — праграму каланізацыі тэрыторыі, германізацыі, высялення і знішчэння народаў Усх. Еўропы. «Інструкцыя пра асобыя вобласці» да дырэктывы № 21 плана «Барбароса» (13.3.1941) — дэцэнтралізацыю і расчляненне тэр. СССР, «Дырэктывы па кіраўніцтву эканомікай у акупіраваных усходніх абласцях» — найб. эфектыўныя метады эканамічнага рабавання. Гэтыя дакументы намецілі практычныя мерапрыемствы па ўстанаўленню жорсткага А. р. на тэр., якая падлягала захопу. Па меры набліжэння фаш. нападу на тэр. СССР узрастаў паток загадаў, інструкцый вярх. галоўнакамандавання ўзброеных сіл і інш. ведамстваў гітлераўскай Германіі, у якіх масавы тэрор, рабаванні, гвалтаванне і забойствы ўзводзіліся ў ранг дзярж. палітыкі нацысцкай Германіі.

На захопленай тэр. СССР, у т. л. і БССР, фашысты адкінулі ўсе міжнар. прававыя нормы акупацыі і ўстанавілі т. зв. «новы парадак» — жорсткі каланіяльны рэжым беззаконня, гвалту, грабяжу і крывавага тэрору. Уся паўната ўлады належала фаш. ваен. і цывільным акупацыйным уладам. Насельніцтва было пазбаўлена элементарных грамадзянскіх правоў і чалавечых свабод; былі ўведзены надзвычайнае становішча, сістэма заложнікаў.

Гал. сродкам насаджэння і падтрымання «новага парадку» быў масавы крывавы тэрор, які ажыццяўлялі войскі СС (Schutzstaffeln — ахоўныя атрады) і СА (Sturmabteilungen — штурмавыя атрады), паліцыя бяспекі (Sicherheitspolizei) і служба бяспекі СД (Sicherheitsdienst), ГФП (Geheimfeldpolizei — тайная палявая паліцыя), ахоўная паліцыя (Schutzpolizei), паліцыя падтрымання парадку (Ordnungspolizei), крымінальная паліцыя, контрразведвальныя органы «Абвера», жандармерыя, спец. паліцэйскія падраздзяленні, а таксама ўзброеныя сілы вермахта, ахоўныя войскі. Дырэктыва фельдмаршала Кейтэля «Аб ваеннай падсуднасці ў раёне «Барбароса» і асобных паўнамоцтвах войск» (13.5.1941) здымала з ваеннаслужачых германскай арміі адказнасць за ўсе злачынствы на акупіраванай тэр. СССР. У цыркуляры Гітлера ад 27.6.1941 акупацыйным уладам забаранялася займацца судаводствам і ставілася задача навесці жах на насельніцтва ўсемагчымымі сродкамі. З членаў СС, СА, СД, ГФП, гестапа, крымінальнай і ахоўнай паліцый былі створаны асобыя аператыўныя групы (Einsatzgruppen), якія падзяляліся на спец. каманды (Sonderkommandos), апе-

ЗНІШЧЭННЕ НАСЕЛЬНІЦТВА БЕЛАРУСІ НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКІМІ АКУПАНТАМІ Ў ГАДЫ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ

ГОМЕЛЬ 135822 — Абласныя цэнтры (колькасць насельніцтва, знішчанага ў горадзе і раёне)

Слуцк 25584 — Раённыя цэнтры (колькасць насельніцтва, знішчанага ў раёне)

▲ Трасцянец 206000 — Найбольш буйныя лагеры смерці і месцы масавага знішчэння савецкіх грамадзян

Заўвага: У колькасць знішчаных на тэрыторыі раёна ўключаны і вязні, што загінулі ў лагерах смерці; выключэнне — месцы масавага знішчэння Бронная Гара, Азарычы і Беразвецкі лагеры смерці

ратыўныя каманды (Einsatzkommandos). Перад імі ставілася задача скарачэння колькасці насельніцтва шляхам масавага яго знішчэння.

Спец. аператыўная група «А» дзейнічала ў захопленых раёнах Пн СССР (да студз. 1942 расстраляла 218 050 чал.), «В» — на Беларусі (з 15.11 да 15.12.1942 загубіла 134 298 чал.), «С» — на Украіне (да кастр. 1941 загубіла 76 тыс. чал.), «Д» — у паўд. раёнах.

Эканамічная палітыка акупантаў была накіравана на аднаўленне капіталістычных адносін, на рабаванне і каланізацыю захопленых тэрыторый. З палітыкі татальнага падрыву эканамічнага патэнцыялу акупіраваных тэрыторый вынікала знішчэнне прам-сці і вял. гарадоў. Для эканамічнага рабавання і эксплуатацыі прыродных багаццяў акупіраваных тэрыторый быў створаны спец. апарат: эканамічны штаб «Ост», або «Ольдэнбург», з вял. штатам спец. гаспадарчых каманд, інспекцый, атрадаў для збору сродкаў вытворчасці і сыравіны; цэнтр. гандлёвае таварыства «Усход» з гал. канторамі ў Рызе, Роўне і Барысаве; металургічныя аб'яднанні «Усход» і «Герман Гёрынг»; прыватныя ням. фірмы, манаполіі, акцыянерныя таварыствы («Борман», «Шорава Верк», «Трэбец», «Троль», «Цындаль і Фоль», «Шляхтгоф») і інш.

Акупанты ўвялі жорсткі рэжым паднявольнай працы і бесчалавечнай эксплуатацыі. Заработная плата была мізэрная. Афіцыйна працягласць рабочага дня лічылася 10—12 гадзін, але кіраўнікі прадпрыемстваў мелі права неабмежавана павялічваць яго, біць рабочых, садзіць у карцэр, западозраных у сабатажы высылаць у канцлагеры, або т. зв. «працоўныя выхаваўчыя лагеры», знявольваць у турмы. *Аграрная палітыка* акупантаў была таксама падпарадкавана мэтам рабавання. Сяляне былі пазбаўлены правоў на зямлю.

Пад шырмай «новага парадку землекарыстання» на базе калгасаў гітлераўцы стварылі т. зв. «абшчынныя гаспадаркі» (Gemeinwirtschaften), на базе саўгасаў — «дзяржаўныя маёнткі», «земскія двары» (Domänen). Акупанты раздавалі землі ням. каланістам, былым памешчыкам і сваім памагатым. Сельскае насельніцтва абкладалася непасільнымі падаткамі, наборамі, пастаўкамі, працоўнымі павіннасцямі, якія неабмежавана мог назначыць і павялічыць любы прадстаўнік акупац. адміністрацыі. У многіх месцах браліся падаткі, вядомыя толькі ў часы сярэднявечча. Рабавалася і асабістая маёмасць. Нарабаваныя прадукты і жывёлу акупанты пастаўлялі сваёй арміі, вывозілі ў Германію.

Беларусь была акупіравана на працягу чэрв.— жн. 1941. Фашысты ставілі за мэту ліквідаваць нацыянальную дзяржаўнасць Беларусі, ператварыць яе ў аграрна-сыравінны прыдатак і калонію імперыялістычнай Германіі. Яны расчлянілі тэр. Беларусі: паўн.-зах. раёны Брэсцкай вобл. і Беластоцкую вобл. з гарадамі Гродна і Ваўкавыск далучылі да Усх. Прусіі (бецырк Беласток), паўд. раёны Брэсцкай, Пінскай, Палескай і Гомельскай абл.— да рэйхскамісарыята «Украіна», утварыўшы з іх 4 акругі — Мазырскую, Васілевіцкую, Петрыкаўскую, Ельскую; паўн.-зах. раёны Вілейскай вобл. ўключылі ў генеральную акругу Літвы, Віцебскую, Магілёўскую, б. ч. Гомельскай і ўсх. раёны Мінскай абл.— у зону армейскага тылу. У склад генеральнай акругі Беларусі («Генеральбецырк Беларутэнія», як гітлераўцы называлі Беларусь) увайшлі Баранавіцкая, Вілейская, Мінская (без усх. раёнаў), паўн. раёны Брэсцкай, Пінскай і Палескай абласцей, што складала 1/3 тэр. БССР. Гэтая тэрыторыя была ўключана ў склад рэйхскамісарыята «Остланд» з рэзідэнцыяй у Рызе і падзелена на 10 акруг (гебітаў): Баранавіцкую, Барысаўскую, Вілейскую, Ганцавіцкую, Глыбоцкую, Лідскую, Мінскую, Навагрудскую, Слонімскую, Слуцкую.

На чале генеральнага камісарыята Беларусі з жн. 1941 быў гаўляйтэр В. Кубэ (22.9.1943 знішчаны членамі Мінскага парт. падполля); яго замяніў нач. СС і паліцыі на Беларусі групенфюрэр войск СС фон Готберг. На чале акруг стаялі гебітскамісары, гарадоў — штатскамісары, раёнаў — ортскамісары. Мясцовыя органы акупац. улад узначальвалі розныя шэфы, інспектары, зондэрфюрэры, сельгасфюрэры, раённыя ўпаўнаважаныя (крайсландвірты), «сельскагаспадарчыя спецыялісты», «ваенныя аграномы». У зоне армейскага тылу ўлада належала камандаванню армейскіх часцей, ваенна-палявым і мясцовым камендатурам (фельдкамендатурам і ортскамендатурам). Уся сістэма адм. кіравання будавалася паводле прынцыпу «фюрэрства», што давала неабмежаваную ўладу акупантам у дачыненні да цывільнага насельніцтва. Каб замаскіраваць грабежную палітыку, зрабіць выгляд самакіравання і ўзмацніць уплыў на насельніцтва, акупанты стварылі мясцовыя дапаможныя ўстановы — управы. На чале гар., раённай або павятовай управы стаяў прызначаны гітлераўцамі бургамістр, валаснай управы — валасны старшыня. У вёсках прызначаліся старасты, солтысы, войты. Каб расколоць адзінства бел. народа, гітлераўцы спрабавалі стварыць прафашысцкія нацыяналіст. арг-цыі. 22.10.1941 створана «Беларуская народная самапомач», 22.6.1943—«Саюз беларускай моладзі». Калі становішча акупантаў на Беларусі стала катастрафічнае, яны арганізавалі з сваіх прыслужнікаў «дарадчыя органы кіравання»: у чэрв. 1943 «Беларускую раду даверу пры генеральным камісарыяце Беларусі»,



Акупанты ўрываюцца ў жылы дом.



Нямецка-фашысцкія захопнікі ў акупіраваным Мінску.



Праверка дакументаў у Мінску. 1942.

а 21.12.1943 «Беларускую цэнтральную раду». Усе гэтыя ўстановы і арг-цыі былі марыянеткамі акупантаў.

Акупанты прынеслі бел. народу незлічоныя страты і няшчасці. На тэр. БССР яны спалілі і разбурылі 209 гарадоў і раённых цэнтраў, больш за 8 млн. м² жылога фонду, 9200 вёсак — 1,2 млн. дамоў; без жылля асталося каля 3 млн. чал. (гл. таксама *Населеныя пункты Беларусі, знішчаныя разам з жыхарамі ў 1941—44 нямецка-фашысцкімі захопнікамі*). Фашысты знішчылі больш за 10 тыс. прамысловых прадпрыемстваў, амаль усе электрастанцыі, разрабавалі 10 тыс. калгасаў, 92 саўгасы, 316 МТС, вывезлі ў Германію 90 % станочнага і тэхнічнага абсталявання, каля 96 % энергетычных магутнасцей, 18 425 аўтамашын, больш за 9 тыс. трактароў і цягачоў, 1100 камбайнаў, 2800 тыс. галоў буйной рагатай жывёлы, 5700 тыс. галоў дробнай жывёлы, 1621,4 тыс. т збожжа, 426,8 тыс. т мукі, 3032,8 тыс. т бульбы і агароднiны, 7 млн. м³ дзелавой драўніны, 500 тыс. м³ піламатэрыялаў; высеклі 104 тыс. га лесу, 33 тыс. га садоў. За гады акупацыі на Беларусі пасяўныя плошчы скараціліся на 43 %, пагалоўе буйной рагатай жывёлы амаль на 69, коней на 61, свіней на 89, авечак і коз на 78 %.

Імкнучыся духоўна заняволіць бел. народ, фашысты бязлітасна знішчалі нацыянальную культуру. Яшчэ напярэдадні вайны Гітлер паставіў задачу знішчыць усю сав. інтэлігенцыю і абавязаў акупац. ўлады сачыць, каб не паявіліся новыя слаі інтэлігенцыі. Фашысты разбурылі і разрабавалі ўсе ўстановы навукі і культуры, у т. л. ВНУ, НДІ, АН БССР, Бел. дзярж. тэатр оперы і балета, дзярж. бел. драматычныя тэатры ў Мінску і Віцебску, Дзярж. карцінную галерэю, Бел. дзярж. гіст. музей, кансерваторыю, выдатныя помнікі старажытнасці, культуры, гісторыі, архітэктуры, разбурылі 7 тыс. школьных будынкаў, 2187 бальніц і амбулаторый, 2567 дзіцячых садоў і ясляў, 5340 клубаў і чырвоных куткоў, 219 бібліятэк, 13 музеяў і шмат інш. Толькі непасрэдныя матэрыяльныя страты, нанесеныя нар. гаспадарцы і грамадзянам Беларусі за гады акупацыі, склалі 75 млрд. руб. (у дзярж. цэнах 1941, гл. таксама *Матэрыяльныя страты*).

Мэтай акупац. палітыкі гітлераўцаў было планамернае знішчэнне народаў. Паводле плана «Ост» на Беларусі прадугледжвалася знішчыць ці выселіць на У 75 % насельніцтва, непрыдатнага з пункту гледжання гітлераўцаў па т. зв. расавых і паліт. адзнаках, 25 % беларусаў падлягалі анямечванню і выкарыстанню ў якасці сельскагаспадарчых рабоў. План быў разлічаны на 30 гадоў. Каб скараціць гэты тэрмін, фашысты імкнуліся як мага болей знішчыць людзей у ходзе вайны. Гэтаму служыла сістэма *лагераў смерці*, турмы, *карныя аперацыі* і інш. На акупіраванай тэр. Беларусі гітлераўцы стварылі больш за 260 лагераў смерці. Каб паскорыць «натуральнае выміранне», вязняў трымалі пад адкрытым небам, марылі голадам, прымушалі працаваць да знясілення, па-зверску катавалі, наўмысна заражалі інфекцыйнымі хваробамі, праводзілі на людзях забароненыя міжнар. законамі медыцынскія доследы. Працэс знішчэння сав. насельніцтва яны механізавалі — людзей труцілі газамі ў камерах, у спец. аўтамабілях, т. зв. душагубках (Gaswagen). Жорстка распраўляліся гітлераўцы з сав. ваеннапалоннымі. Да ваеннапалонных вярхоўнае камандаванне загадвала адносіць «усіх асоб, якія сустракаюцца ў непасрэднай блізкасці ад раёнаў ваенных дзеянняў.., усіх працаздольных мужчын ва ўзросце 16—55 год». Найбуйнейшыя лагеры смерці і месцы масавай загубы цывільных жыхароў і ваеннапалонных у Мінску і яго ваколіцах: на вул. Шырокая (знішчана 20 тыс. чал.), у раёне Нямігі (каля 80 тыс. чал.), у лагеры смерці Малы Трасцянец (больш за 200 тыс. чал.), каля в. Масюкоўшчына (80 тыс. чал.). У лагерах смерці Барысава знішчана больш за 33 тыс. чал., у Калдычэве Баранавіцкага р-на — 22 тыс. чал., паблізу ст. Лясная Баранавіцкага р-на — 88 407 чал., у раёне Полацка — каля 150 тыс. чал., у Віцебску — каля 150 тыс. чал., у в. Беразвечча Глыбоцкага р-на — каля 27 тыс. чал., у Гомелі — каля 100 тыс. чал., у Пінску — каля 60 тыс. чал., у Магілёве — больш за 70 тыс. чал., у Маладзечне — 33 150 чал., у Брэсце — больш за 34 тыс. чал., у Ваўкавыску — каля 20 тыс. чал., каля чыг. ст. Бронная Гара Бярозаўскага р-на — больш за 50 тыс. чал., у Бабруйску — больш за 44 тыс. чал., у Гродне — больш за 30 тыс. чал., у Крычаве — каля 24 тыс. чал., у Слуцку — каля 20 тыс. чал., у Оршы — 19 тыс. чал. Лагеры смерці, турмы, гета былі ў кожным раёне Беларусі. Напярэдадні наступлення сав. войск гітлераўцы стваралі на пярэднім краі сваёй абароны як жывыя заслоны спец. лагеры смерці, дзе размяшчалі



Савецкія патрыёты, павешаныя гітлераўцамі на Камароўскай плошчы ў Мінску.



Алена, Мікалай, Антаніна Падбярозкі і Марыя Кураш, забітыя фашыстамі на хутары Дубовікі.




Папярэджанне на агароджы Бабруйскага лагера смерці. 1944.

інфекцыйных хворых у разліку на хуткае і масавае пашырэнне цяжкіх захворванняў сярод насельніцтва і сав. вайсковых часцей. Мірнае насельніцтва фашысты гналі на замініраваныя палі і дарогі.

Беларусь была аблытана густой сеткай ваен. і паліцэйскіх гарнізонаў. Пад выглядам барацьбы з партызанамі акупанты праводзілі карныя аперацыі супраць цывільнага насельніцтва і масава знішчалі яго. У загадзе Гімлера ад кастр. 1942 гаварылася, што барацьбу з партызанамі трэба весці з «самай бязлітаснай жорсткасцю», што ў гэтай барацьбе не павінна быць палонных, бо яна вядзецца да поўнага вынішчэння. Гітлераўцы паўсюдна ажыццяўлялі палітыку *генацыду* і «выпаленай зямлі». Гэтая нацысцкая палітыка ва ўсёй паўнаце праявілася ў шэрыдзе правядзення карных аперацый, якія ўяўлялі сабой сукупнасць тэрарыстычных акцый ваен., паліт., эканамічнага характару, мелі на мэце задушыць партыз. рух, устанавіць непадзельнае панаванне фаш. улад на ўсёй акупіраванай тэрыторыі.

За час акупацыі гітлераўцы правялі на Беларусі больш за 140 карных аперацый. Найб. жорсткія: *«Арол»*, *«Балотная ліхаманка»*, *«Веснавое свята»*, *«Герман»*, *«Горнунг»*, *«Котбус»*, *«Нюрнберг»*, *«Ота»*, *«Трохвугольнік»*, *«Франц»*, *«Хрушч»*. Раёны карных аперацый ператвараліся ў пустыні.

За гады акупацыі фашысты знішчылі на Беларусі больш за 2 млн. 200 тыс. сав. грамадзян і ваеннапалонных; вывезлі ў Германію на катаржныя работы каля 380 тыс. чал. За час акупацыі на Беларусі спалена разам з жыхарамі 628 вёсак, з іх 186 не адноўлены пасля вайны. У вайну загінуў кожны чацвёрты жыхар Беларусі.

Сусветная гісторыя цывілізацыі не ведае такога масавага і зверскага знішчэння людзей, варварскага разбурэння матэрыяльных, культурных і навуковых каштоўнасцей, якія ўчынялі гітлераўцы на акупіраванай тэр. СССР. А. р. у захопленых гітлераўцамі раёнах СССР — сведчанне найцяжэйшых злачынстваў фашызму супраць міру і чалавецтва. Крывавы рэжым акупантаў не зламаў волі свабодалюбівага сав. народа. Разам з братнімі народамі гераічна змагаліся супраць ворагаў беларусы. Яны ўзняліся на ўсенар. вайну і вялі яе да поўнага разгрому ням. фашыстаў.

Пад кіраўніцтвам КП(б)Б на акупіраванай тэр. БССР гераічна змагаліся з ворагамі больш за 374 тыс. партызан, аб'яднаных у 213 партыз. брыгад і 258 асобных атрадаў. Больш за 70 тыс. патрыётаў дзейнічалі ў падп. арг-цыях і групах. На баявым уліку ў атрадах і брыгадах было больш за 400 тыс. чал.,т. зв. скрытых партыз. рэзерваў. Імклівае наступленне Чырвонай Арміі і гераічныя дзеянні бел. партызан, якія трымалі пад кантролем каля 60 % тэр. рэспублікі і абаранялі цывільнае насельніцтва, сарвалі намер фашыстаў ператварыць бел. зямлю ў мёртвую зону.

На Беларусі насыпаны сотні курганоў Славы і Памяці, пастаўлены тысячы помнікаў і абеліскаў на ўшанаванне памяці сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць захопнікаў, а таксама ахвярам фашызму, у т. л. мемарыяльны комплекс *Хатынь* у Лагойскім р-не, дзе на месцы кожнай спаленай хаты ўзвышаецца абеліск — комін са звонам. Званы звоняць як напамін людзям пра зверствы і ахвяры фашызму.

*В. П. Раманоўскі, І. П. Хаўратовіч.*



Карнікі 213-га ахоўнага батальёна дапытваюць жыхароў. Верасень 1943.



Вываз трупаў савецкіх грамадзян з лагера смерці. Станцыя Мінск-Таварны.

**АКУЦЫЁНАК** Пётр Антонавіч (25.4. 1922, г. п. Шуміліна — 15.10.1943), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. ВЛКСМ. Скончыў ваен. вучылішча (1943). З ліп. 1941 у складзе знішчальнага атрада ўдзельнічаў у барацьбе з гітлераўскімі лазутчыкамі і дыверсантамі. На фронце з ліп. 1943, удзельнік Курскай бітвы. Камандзір стралк. ўзвода мал. лейт. А. вызначыўся ў кастр. 1943 пры фарсіраванні Дняпра каля г. п. Лоеў: на чале ўзвода пад агнём праціўніка пераправіўся цераз раку, з воінамі захапіў плацдарм і ўзняў на вышыні чырвоны сцяг. Загінуў у баі. Пахаваны ў Лоеве. Яго імем названы вуліцы ў Шуміліне і Лоеве, імя героя прысвоена школе ў Шуміліне, дзе ён вучыўся, на будынку школы — мемар. дошка; навечна залічаны ў спісы вайсковай часці.

**АКЦЁРСКІЯ ФРАНТАВЫЯ БРЫГА́ДЫ,** прафесійныя калектывы, прызначаныя для абслугоўвання ў Айч. вайну часцей у франтавых і прыфрантавых зонах, васпітальных тылавых устаноў і арг-цый (мабілізацыйных і эвакуацыйных пунктаў, шпіталяў). Іх рэпертуар складаўся з твораў малых форм на надзённыя тэмы (мініяцюры, скетчы, куплеты, аднаактовыя п'есы, а таксама песні, танц. нумары, мантаж спектакляў).

З першых дзён вайны БДТ-1 (цяпер тэатр імя Я. Купалы), які знаходзіўся на гастролях у Адэсе, арганізаваў брыгады па абслугоўванню мабілізацыйных пунктаў, часцей Чырвонай Арміі, берагавой абароны, зенітных кропак і ваен. суднаў Чарнаморскай флатыліі, а з 30 чэрв. да вер. абслугоўваў выключна воінаў Чырвонай Арміі і флоту. У самым пач. вайны была арганізавана і А. ф. б. пераважна з акцёраў Гомельскага абл. драматычнага тэатра (С. Астравумаў, З. Аўчарова, П. Голышаў, І. Кірэеў, Я. Палосін, І. Патыкаў, М. Перcцін, П. Чарноў) пад кіраўніцтвам Р. Прагіна (затым узначальвалі А. Бяссмертны, Перcцін), уваходзілі ў яе і акцёры з інш. калектываў рэспублікі (скрыпач Бяссмертны, піяніст М. Бергер, спевакі Г. Альшэўская, Д. Кроз і І. Сайкоў, артысты эстрады Р. Орлік і М. Шышкін). Брыгада выступала на Зах. фронце і з часцямі 3-га Бел. фронту дайшла да Усх. Прусіі. У 1942 брыгада была перайменавана ў франтавы тэатр. За час вайны

яна дала 2500 канцэртаў. У яе рэпертуары — мантаж спектакля «Рускія людзі» К. Сіманава, «Ілгуння» Л. Эніка і А. Дадэ, канцэртныя праграмы.

Асабліва актыўна дзейнічалі А. ф. б. ў 1943—44; яны выступалі перад воінамі Чырвонай Арміі, партызанамі, жыхарамі вызваленых раёнаў Беларусі. У лют.— сак. 1943 на Калінінскім фронце перад воінамі 4-й ударнай арміі, партызанамі выступала А. ф. б., сфарміраваная пераважна з акцёраў Дзярж. тэатра оперы і балета БССР (12 чал., у т. л. І. Балоцін — мастацкі кіраўнік, С. Друкер, Кроз. Р. Млодак, М. Пігулеўскі, Ю. Хіраска, Т. Узунава, а таксама Дз. Арлоў, С. Навіцкі, Х. Шмелькін), яна дала 40 канцэртаў. Брыгада тэатра, якую ўзначальвала Л. Александроўская (у яе складзе С. Дрэчын, І. Мурамцаў, А. Нікалаева і інш.), дзейнічала і ў 1944. На Калінінскім фронце 5 чэрв.— 23 ліп. 1943 са спектаклем «Скупы» Мальера і канцэртнай праграмай выступала А. ф. б. БДТ-1 (17 чал., у т. л. Г. Глебаў — мастацкі кіраўнік, С. Глікман, Я. Зайчык, Р. Кашэльнікава, З. Лідская, П. Пекур, В. Пола, Л. Рахленка, З. Стома, Э. Шапко, М. Шашалевіч, Б. Янпольскі). Брыгада дала каля 150 паказаў, на якіх прысутнічала больш як 40 тыс. чалавек. У 1944 перад воінамі 2-га Бел. фронту і насельніцтвам вызваленых раёнаў Гомельшчыны выступала 2-я франтавая брыгада тэатра (уваходзілі акцёры К. Быліч, У. Гаратаў, Глікман, В. Краўцоў, Лідская, З. Скачкоўская, С. Станюта, У. Уладамірскі — мастацкі кіраўнік, Л. Ярмоліна). У яе рэпертуары — «Валодзеў гальштук» К. Крапівы, «Прымакі» Я. Купалы і канцэртная праграма. Летам 1943 у Маскве аднавіў дзейнасць як франтавы Дзярж. рускі драматычны тэатр БССР. У ліст.— снеж. 1943 брыгада тэатра (12 чал., у т. л. Дз. Арлоў — мастацкі кіраўнік, Ю. Арынянскі, Я. Кавалёва, П. Нікандраў, В. Чэмберг, А. Шанс) з вял. канцэртнай праграмай выступала перад воінамі Бел. фронту, насельніцтвам вызваленых пунктаў Магілёўскага і Гомельскага р-наў, дала больш за 100 канцэртаў. У жн.— кастр. 1943 дзейнічала А. ф. б. Дзярж. яўрэйскага тэатра БССР (15 чал., у т. л. Э. Арончык, М. Арoцкер, М. Моін, М. Сокал, С. Сонкін, А. Трэпель). У студз.— сак. 1944 на Бел. і 1-м Бел. франтах выступала А. ф. б. БДТ-2 (цяпер Бел. тэатр імя Я. Коласа; у яе складзе Т. Бандарчык, М. Бялінская, Я. Гаробчанка, Л. Мазалеўская, П. Малчанаў — мастацкі кіраўнік, А. Радзялоўская, Ф. Шмакаў). У праграме — мантаж спектакля «Проба агнём» К. Крапівы, «Прымакі», «З цёплым ветрам» В. Пацёмкінай і Х. Херсонскага. У 1944 са спектаклем «Вялікі Іван» С. Абразцова і С. Праабражэнскага выязджаў на фронт Дзярж. тэатр лялек БССР. У франтавых тэатрах і брыгадах працавалі бел. актрысы Г. Абуховіч і З. Браварская, рэжысёры К. Саннікаў і М. Кавязін. Так, Саннікаў у студз.— сак. 1943 паставіў у франтавым ансамблі чырвонаармейскай песні і пляскі літмантаж «Наперад на Захад!», дапамагаў самадзейнасці ў часцях і злучэннях Варонежскага фронту. Тэатры БДТ-1 і БДТ-2 праводзілі таксама вял. ваенна-шэфскую работу, абслугоўвалі шпіталі і часці Чырвонай Арміі. БДТ-2 у 1943 наладзіў 142 спектаклі і канцэрты ў часцях Чырвонай Арміі, БДТ-1 за перыяд 1941—43 — 216 спектакляў і канцэртаў у шпіталях і воінскіх часцях.

А. ф. б. ўзнімалі баявы дух салдат і афіцэраў, уносілі ўклад у агульную барацьбу сав. народа з ворагам.

*Р. Б. Смольскі.*

**АКЦЯ́БРСКА-ЛЮБАНСКАЯ ПАРТЫЗА́НСКАЯ ЗО́НА,** тэрыторыя паўд. раёнаў Мінскай і паўн. раёнаў Палескай абл., якую кантралявалі партызаны. Створана ўвосень 1941 у выніку вызвалення партызанамі ад ням.-фаш. захопнікаў ч. Любанскага, Старобінскага, Акцябрскага і Глускага р-наў. Зону ўтрымлівалі Мінскае партыз. злучэнне, злучэнне партыз. атрадаў Акцябрскага р-на (13 атрадаў, 1300 чал.) на чале з Ф. І. *Паўлоўскім*, з крас. 1942 — злучэнне партыз. атрадаў Мінскай і Палескай абл., з сак. 1943 Мінскае і Палескае партыз. злучэнні (гл. адпаведныя арт.). Да чэрв. 1942 ад гітлераўцаў ачышчана 418 населеных пунктаў, да канца 1942 вызвалена тэр. каля 4 тыс. км². У 1943 зона злілася на Пн са Слуцка-Капыльскай, на З з Ленінскай партыз. зонамі, утварыўся партыз. край пл. каля 8 тыс. км²: тэр. Акцябрскага, ч. Любанскага, Старадарожскага, Старобінскага, Слуцкага, Грэскага, Уздзенскага, Чырвонаслабодскага, Капыльскага, Капаткевіцкага, Глускага, Жыткавіцкага, Даманавіцкага, Петрыкаўскага, Парыцкага, Ленінскага, Лунінецкага, Ганцавіцкага і інш. р-наў.



Гарыць беларуская вёска. Докшыцкі раён. Вясна 1943.

У зоне знаходзіліся падп. Мінскі, Палескі (з лют. 1943) абкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, райкомы партыі, камсамола, пярвічныя парт. і камсам. арг-цыі, штабы Мінскага і Палескага партыз. злучэнняў. Дзейнічалі Акцябрскі і Любанскі райвыканкомы, у некаторых раёнах — выканкомы сельсаветаў. Выдаваліся падп. газеты *«Звязда»*, *«Чырвоная змена»*, *«Бальшавік Палесся»*, раённыя газеты. Было наладжана гаспадарчае жыццё, вялася масава-паліт. работа сярод насельніцтва. Увосень 1942 у многіх населеных пунктах адкрыты сав. школы. З мая 1942 устаноўлена двухбаковая радыёсувязь з Масквой, з вер.— рэгулярная авіясувязь з Вял. зямлёй: на востраве Зыслаў і каля в. Парэчча дзейнічалі *партызанскія аэрадромы*.

Гітлераўцы неаднойчы спрабавалі пранікнуць на тэр. зоны, у сак. 1942 правялі карную аперацыю *«Бамберг»*, жорсткія баі ішлі 7 дзён. У пач. крас. партызаны зноў авалодалі тэрыторыяй і з баямі ўтрымлівалі яе да студз.— крас. 1944. Амаль да поўнага выгнання ням.-фаш. захопнікаў з тэр. зоны (чэрв. 1944) акупанты не менш як 10 разоў урываліся ў гэты вял. лясіста-балоцісты басейн Бярэзіны і Прыпяці [карныя аперацыі № 6, № 7 («Няведанне»), № 20, *«Альберт I»*, *«Альберт II»*, *«Франц»*, *«Свята ўраджаю»*, *«Горнунг»*, *«Русалка»*, *«Цёплы вецер»*, *«Марабу»*, карныя аперацыі 203-й ахоўнай дывізіі] і, паводле няпоўных звестак, знішчылі больш за 25 тыс. савецкіх грамадзян, угналі на катаржныя работы ў Германію каля 6 тыс. чалавек. Больш за 40 тыс. партызан мужна абаранялі насельніцтва зоны, каля 3 гадоў стойка змагаліся супраць нагмнога большых сіл праціўніка, у т. л. 203-й ахоўнай дывізіі, 24-га паліцэйскага палка, 61-га, 255, 291-га паліцэйскіх батальёнаў, 339-й кав. сотні, кав. дывізіі СС і 2 кав. і 1 пяхотнай дывізій сатэлітаў фаш. Германіі, якія размяшчаліся пастаяннымі гарнізонамі па перыметры партыз. зоны ўздоўж чыгункі Лунінец — Калінкавічы — Жлобін — Асіповічы — Ляхавічы. Акрамя гэтых сіл, да ўдзелу ў карных аперацыях прыцягваліся і інш. часці вермахта. Як і ў інш. буйных партыз. зонах, значную ролю ў ахове насельніцтва ад зверстваў і грабяжу ням.-фаш. захопнікаў, арга-

П. А. Акуцыёнак.



3. Зак. 623.

нізацыі адпору ворагу адыгралі мясцовыя падп. органы, адноўленыя ў асобных раёнах мясцовыя, раённыя і сельскія органы Сав. улады. 7.11. 1942 прама з параду і мітынгаў, прысвечаных 25-й гадавіне Вял. Кастрычніка, рушыліся на абарону насельніцтва вёсак Янка Купала, Гарэлец Пухавіцкага р-на, Пясчанка, Старыца Капыльскага р-на і інш. атрады партыз. брыгад імя. К. Я. Варашылава і 2-й Мінскай. Спыніўшы ворага на берагах р. Пціч і ў Старыцкім лесе, партызаны нанеслі яму цяжкія страты ў жывой сіле, знішчылі танк. роту гітлераўцаў, сарвалі карныя аперацыі захопнікаў «Альберт I» і «Альберт II», не пусцілі яго ў вызваленую зону (гл. *Пціцкая аперацыя 1942, Старыцкі бой 1942*). Насмерць стаялі партызаны каля Лаўскага лесу ў Капыльскім р-не (гл. *Лаўскі бой 1942*). Браты І. С. і М. С. *Цубы* сарвалі спробу гітлераўцаў знішчыць *Слуцкай зоны партызанскае злучэнне.* Найбольш кровапралітныя цяжкія баі па абароне зоны Мінскае і Палескае партыз. злучэнні вялі ў студз.— лютым 1943 і 1944 (гл. карныя аперацыі «Горнунг», «Русалка», «Свята ўраджаю»). У многіх партыз. брыгадах адчуваўся востры недахоп боепрыпасаў, над націскам намнога большых сіл праціўніка яны былі вымушаны пакідаць свае раёны дыслакацыі і баявых дзеянняў. Аднак хутка партыз. фарміраванні аднаўлялі становішча, вярталіся ў вызначаныя ім ЦК КП(б)Б і БШПР раёны і працягвалі баявыя дзеянні супраць ням.-фаш. захопнікаў. У гонар гераічнай барацьбы партызан у 1969 у цэнтры былой А. Л. п. з. адкрыты мемарыяльны комплекс *Зыслаў.*

*В. С. Пась, Э. Ф. Языковіч.*

**АКЦЯ́БРСКІ,** гарадскі пасёлак, цэнтр Акцябрскага р-на, на р. Нератоўка. За 203 км на З ад Гомеля, 7 км ад чыг. станцыі Рабкор на лініі Бабруйск — Рабкор, на аўтамабільнай дарозе Глуск — Азарычы. Утвораны ў 1954 у выніку аб'яднання вёсак Карпілаўка, Рудобелка і Рудня Акцябрскага р-на (з 1939, цэнтр Карпілаўка). У першыя дні вайны на тэр. Акцябрскага р-на быў сфарміраваны знішчальны батальён (на пач. ліп. 100 чал.), арганізатарамі і кіраўнікамі якога былі 1-ы сакратар Акцябрскага РК КП(б)Б Ц. П. *Бумажкоў* і нам. старшыні райвыканкома Ф. І. *Паўлоўскі.* У ліп. 1941 у раён прыбыў механізаваны атрад Чырвонай Арміі пад камандаваннем падпалк. Л. В. Курмышава (250 чал.). Абодва фарміраванні дзейнічалі разам: вялі разведку, знішчалі баявую тэхніку і жывую сілу ворага. 15 ліп. знішчылі 15 танкаў праціўніка пры іх пераправе цераз Пціч, 18 ліп. пры падтрымцы бранепоезда № 52 — штаб ням. дывізіі ў в. Воземля (гл. *Воземлянскі бой 1941*). У ліп. 1941 на базе батальёна і парт.-сав. актыву створаны партыз. атрад «Чырвоны Кастрычнік» (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 123-я Акцябрская імя 25-годдзя БССР*). Да канца ліп. 1941 ва ўзаемадзеянні з сав. войскамі батальён знішчыў каля 300 гітлераўцаў, падарваў 20 мастоў, 20 танкаў, дзесяткі аўтамашын. Акружаныя з трох бакоў гітлераўцамі, пад абстрэлам авіяцыі, у жорсткіх баях да жн. 1941 утрымлівалі раён. 5.8.1941, у сак.— крас. 1942 і 24.1—27.6.1944 А. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія забілі ў раёне 5087 мясцовых жыхароў. З восені 1941 да студз. 1944 тэр. раёна ўваходзіла ў *Акцябрска-Любанскую партызанскую зону.* Тут дзейнічалі Акцябрскі падп. РК КП(б)Б (31.3.1943—26.6.1944) і РК ЛКСМБ (жн. 1941—26.6.1944), партыз. брыгады 37-я імя Пархоменкі, 99-я Калінкавіцкая, 100-я Глуская, 121-я імя А. Ф. Брагіна, 123-я Акцябрская імя 25-годдзя БССР, 225-я, 258-я імя Куйбышава, асобныя атрады П. А. Дудаля, І. С. Губіна, А. Ф. Сарафанава (гл. адпаведныя арт.), выдавалася падп. газ. *«Народны мсцівец».* Ням.-фаш. захопнікі спрабавалі неаднойчы ліквідаваць зону, праводзілі карныя аперацыі. У ходзе *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943* у выніку баявых дзеянняў сав. воінаў і партызан на тэр. раёна створаны разрыў у лініі ням. фронту — т. зв. *Рудабельскія «вароты».* Вызвалены 27.6.1944 воінамі 48-й гвардз. стралк. дывізіі (ген.-маёр Г. М. Корчыкаў) 20-га стралк. корпуса 28-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе *Бабруйскай аперацыі 1944* пры ўдзеле партызан 123-й Акцябрскай брыгады імя 25-годдзя БССР. У А. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, магілы ахвяр фашызму, на якіх пастаўлены помнікі; помнік Бумажкову, мемар. дошкі ў гонар партызан, Акцябрскага падп. РК КП(б)Б і штаба 123-й Акцябрскай брыгады імя 25-годдзя БССР. *Л. В. Календа.*



Экспазіцыя, прысвечаная Вялікай Айчыннай вайне, у Акцябрскім музеі народнай славы.

**АКЦЯ́БРСКІ МУЗЕ́Й НАРО́ДНАЙ СЛА́ВЫ.** Адкрыты 1.1.1968 у г. п. Акцябрскі Гомельскай вобл. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, мае 468 экспанатаў асн. фонду, пл. 118 м². Матэрыялы аб стварэнні і баявых дзеяннях партыз. атрада «Чырвоны Кастрычнік», стварэнні *Акцябрска-Любанскай партызанскай зоны,* дзейнасці Палескіх падп. абкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, штаба партыз. злучэння Мінскай і Палескай абл., партыз. брыгад і атрадаў [лістоўка падп. РК КП(б)Б, сцяг партыз. атрада «Чырвоны Кастрычнік», макет дома, дзе праходзіла падп. партканферэнцыя, макет зямлянкі, дзе знаходзіўся штаб партыз. злучэння, матэрыялы аб партыз. аэрадроме і лясных школах, падп. газеты *«Звязда», «Народны мсцівец»,* матэрыялы аб Герoі Сав. Саюза Ц. П. *Бумажкове,* зброя, асабістыя рэчы, дакументы, фатаграфіі сакратароў падп. абкомаў і райкомаў, кіраўнікоў партыз. руху, партызан, у т. л. Героя Сав. Саюза Ф. І. *Паўлоўскага,* Ф. М. *Языковіча,* І. Дз. *Вятрова,* партызанкі Р. І. *Шаршнёвай* і інш.]. Расказваецца аб злачынствах ням.-фаш. захопнікаў (дыярама лагера смерці ў Азарычах, урны з зямлёй з месца спаленых вёсак, фатаграфіі ахвяр фашызму). Матэрыялы аб вызваленні раёна воінамі 28-й арміі 1-га Бел. фронту, коннамеханізаванай групы і партызанамі (карты Беларускай і Бабруйскай апе-

рацый 1944, фатаграфіі і асабістыя рэчы воінаў-вызваліцеляў, фатаграфіі 18 Герояў Сав. Саюза, атрымаўшых званне за вызваленне раёна, Героя Сав. Саюза земляка А. М. *Пінчука*, поўных кавалераў ордэна Славы М. З. *Асмыковіча*, Р. П. *Жулегі* і інш.). Экспануюцца скульпт. кампазіцыя А. Засліцкага «Партызаны», бюст Шаршнёвай, карціны С. Раманава «Бой за р. Пціч», З. Паўлоўскага «Сустрэча сяброў». *В. А. Зыблей.*

**АЛА́,** вёска на тэр. Светлагорскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 6 км на ПнУ ад в. Здудзічы Чыркавіцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 168 чал. Раніцай 14.1.1944 фаш. карнікі разам з ням. вайсковым падраздзяленнем акружылі А., сагналі сюды жыхароў навакольных вёсак Здудзічы, Іскра, Кароткавічы, Мормаль, Плесавічы, Рудня, Чыркавічы, загналі іх у хаты, якія затым падпалілі. Уцякаўшых з агню расстрэльвалі або кідалі жывымі назад у агонь. Усяго расстралялі і спалілі 1758 чал. (з іх 168 жыхароў Алы), у т. л. 508 жанчын і 950 дзяцей. Вёску (34 двары) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1958 на могілках ахвяр фашызму ўстаноўлены помнік. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**АЛЕ́ЙНІКАЎ** Сяргей Пятровіч (14.2. 1909, в. Заціша Магілёўскага р-на — 1.2.1984), Герой Сав. Саюза (1944). Заслужаны штурман-выпрабавальнік СССР (1964). Чл. КПСС з 1940. Скончыў Маскоўскую школу ВПС (1930). На фронце з жн. 1941. Штурман авіяцыі далёкага дзеяння, маёр, зрабіў 240 вылетаў на разведку і бамбардзіроўку аб'ектаў праціўніка, удзельнічаў у баях пад Масквой, Сталінградам, Арлом, Ленінградам, на Беларусі, бамбіў ваенна-прамысловыя аб'екты ў Германіі. Да 1974 на лётна-выпрабавальнай рабоце.

**АЛЕКСАНДРО́ЎСКАЕ ПАТРЫЯТЫ́ЧНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з жн. 1942 да 3.7.1944 у в. Александрова Мінскага р-на пад кіраўніцтвам камандавання *партызанскага атрада «Мясцовыя»*, з вер. 1943 — *Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б*. Аб'ядноўвала 5 чал.: А. М. Жадовіч (кіраўнік), яе маці Л. К. Жадовіч, былых калгасніцу М. Ф. Ліпень, студэнтку Мінскага настаўніцкага ін-та І. С. Ліпень і жонку ваеннаслужачага М. М. Туліну. Члены групы выконвалі заданні партыз. атрада «Мясцовыя», пазней падп. гаркома КП(б)Б па дастаўцы для *Мінскага партыйнага падполля* мін, толу, газет і лістовак, акупац. грошай. Усё гэта яны атрымлівалі ад партызан, хавалі ў тайніках, затым перапраўлялі ў Мінск на канспіратыўныя кватэры падпольшчыкаў І. П. Жураўскага, Л. К. Ліванавай, А. П. Ліпніцкай і інш. Дзякуючы канспірацыі, смеласці і знаходлівасці падпольшчыцы пазбеглі правалаў, даставілі ў горад шмат мін, толу, сотні газет і лістовак. *М. І. Эпалетаў.*

**АЛЕКСАНДРО́ЎСКІ БОЙ 1942** паміж партызанамі атрада М. М. Нікіціна (гл. *партызанская брыгада М. М. Нікіціна*) і ням.-фаш. карнікамі ў Дзяржынскім р-не ў чэрв. 1942. Партыз. атрад капітана Нікіціна летам 1942 базіраваўся ва ўрочышчы Доўгі Востраў у Александроўскім лесе (за 2 км ад в. Александрова Дабрынёўскага сельсавета) на граніцы з Уздзенскім р-нам. Падпольшчыкі Мінска даведаліся аб падрыхтоўцы карнай экспедыцыі і папярэдзілі партызан. Мінскі падп. гарком КП(б)Б і Уздзенскі падп. партком арганізавалі дастаўку ў атрад дадаткова зброі і боепрыпасаў. 14.6.1942 гітлераўцы кінулі супраць атрада намнога большыя сілы карнікаў: падраздзяленні 603-га ахоўнага палка і 24-ы паліцэйскі батальён, якія акружылі ўрочышча і, адкрыўшы кулямётна-мінамётны агонь, пры падтрымцы 9 бронемашын і 6 танкаў пачалі наступленне. Партызаны (120 чал.), заняўшы раней падрыхтаваныя пазіцыі, пад камандаваннем камісара П. І. Знака (Мураўёва) і нам. камандзіра атрада Ф. І. Серабракова больш за 8 гадзін вялі няроўны бой, адбіўшы 21 атаку ворага. Пасля спынення варожых атак партызаны прарвалі абарону карнікаў і адышлі ў лясы Уздзенскага р-на. Пры адбіцці варожых атак загінула 9 партызан. У справаздачы аб аперацыі «Александрова» гітлераўцы пісалі: «Пасля жорсткай барацьбы лагер быў узяты. Праціўнік сіламі да 200 чал. змог прарваць наша акружэнне... Уласныя страты значныя». У адплату за няўдачу карнікі 22.6.1942 спалілі в. Александрова і расстралялі яе мужчын (20 чал.). У 1957 на магіле ахвяр фашызму ў в. Александрова ўстаноўлены абеліск, у 1972 на магіле 9 партызан ва ўрочышчы Доўгі Востраў — стэла, адноўлены партыз. лагер.

**АЛЕКСЯЙЧУ́К** Цімафей Данілавіч (н. 6.2.1921, г. п. Камарычы Бранскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1944). Беларус. Чл. КПСС з 1943. Скончыў ваен. пяхотнае вучылішча (1941), Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1947). З ліст. 1942 на Закаўказскім, Паўн.-Каўказскім і 1-м Украінскім франтах. Камандзір стралк. батальёна капітан А. вызначыўся пры вызваленні Украіны: 31.12.1943 батальён пад яго камандаваннем першым уварваўся ў г. Жытомір, знішчыў 10 танкаў і да 300 гітлераўцаў. Да 1977 у Сав. Арміі, палкоўнік. Ганаровы грамадзянін г. Зноймa (ЧССР).



С. П. Алейнікаў. Ц. Д. Алексяйчук.



У. Ц. Алісейка. М. Альбер.

**АЛІСЕ́ЙКА** Уладзімір Ціtавіч (22.2. 1921, в. Косетаў Калінкавіцкага р-на — 9.5.1981), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1943. З сак. 1943 на Волхаўскім, 1-м Украінскім, 1-м і 2-м Бел. франтах. Камандзір сапёрнага ўзвода ст. сяржант А. вызначыўся ў 1943 пры фарсіраванні Днянра каля Кіева. Пад агнём праціўніка з байцамі разведаў правы бераг ракі, захапіў плацдарм і размініраваў яго, што садзейнічала поспеху ў пераправе сав. войск. Удзельнік вызвалення Польшчы, штурму Берліна. Да 1971 у Сав. Арміі, палкоўнік.

**АЛЬБЕ́Р** (Albert) Марсель (н. 25.11. 1917, Парыж), французскі лётчык, удзельнік баёў на Беларусі, Герой Сав. Саюза (1944). Заслужаны лётчык Францыі. Змагаўся ў радах дэголеўскіх сіл «Змагарная Францыя». З 1943 у СССР у складзе авіяпалка *«Нармандыя — Нёман»* 1-й паветр. арміі. Капітан А. зрабіў 193 баявыя вылеты, збіў 23 самалёты ворага.

**«АЛЬБЕ́РТ I»** («Albert I»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць *партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава* ў Уздзенскім і Капыльскім р-нах 7.11.1942. Праводзілася сіламі 14-га ням. паліцэйскага палка СС, 2 ахоўных батальёнаў, некалькіх танк. рот, арт. дывізіёнаў і спец. падраздзяленняў пад камандаваннем обергрупенфюрэра СС вышэйшага начальніка СС і паліцыі групы армій «Цэнтр», упаўнаважанага Гімлера па барацьбе з партызанамі Баха-Залеўскага. 5 ліст. карнікі выйшлі на далёкія подступы да Старыцкага лесу з боку Слуцка, Грэска, Узды і Капыля. 7 ліст. матарызаваныя групы гітлераўцаў занялі в. Заполле, Свідзічы, Русаковічы, закрыўшы партызанам шляхі

адыходу ў зах. напрамку. З У і Пд у напрамку в. Лінevічы наступалі гал. сілы праціўніка, якія імкнуліся рассячы сілы партызан, акружыць і знішчыць іх па частках. Гал. роля адводзілася карнікамі танк. роце з дэсантам аўтаматчыкаў на брані. Раніцай яна атакавала Старыцкі лес з Пд. Партызаны-артылерысты падбілі галаўны танк, падпалілі другі, дэсант збілі з брані і расстралялі, адбілі 3 атакі гітлераўцаў. З Вялешынскага лесу па карніках з тылу ўдарыў атрад імя Катоўскага. На ўсх. ўзлеску гітлераўцы былі затрыманы партызанамі атрада імя Чапаева. Яны адбілі больш за 10 атак праціўніка, двойчы самі пераходзілі ў контратакі. Да зыходу дня ў партызан скончыліся боепрыпасы і па загаду штаба брыгады яны адышлі ў Вялешынскі лес. Карная аперацыя правалілася (гл. таксама *Старыцкі бой 1942*). У час аперацыі загінуў начальнік партыз. гарнізона і камандзір атрада імя Чапаева І. М. Тараховіч (Дунаеў).

*В. С. Лазебнікаў, У. С. Пасэ.*

**«АЛЬБЕ́РТ II»** («Albert II»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць *партызанскай брыгады 2-й Мінскай* у Пухавіцкім р-не 11.11.1942. Праводзілася сіламі, якія ўдзельнічалі ў карнай аперацыі *«Альберт I»*. Партызаны сустрэлі праціўніка на загадзя занятай лініі абароны ўздоўж левага берага р. Пціч, каля вёсак Ліпск, Гарэлец, Пясчанка. Аднак гітлераўцам удалося фарсіраваць Пціч ніжэй па цячэнні і выйсці ў тыл партызанам каля в. Пясчанка. Але ў фланг карнікам ударылі партыз. атрады імя Суворава і Кутузава. Вораг быў зламаны і пачаў спешна пераходзіць да абароны ў чаканні падмацавання. Удзень партызаны ўтрымлівалі занятыя імі пазіцыі, увечары адарваліся ад праціўніка і выйшлі ў Асіповіцкі лес. Партызаны брыгад імя Варашылава і 2-й Мінскай знішчылі варожую танк. роту, больш за 10 аўтамашын, забілі і паранілі каля 40 карнікаў.

**«АЛЬТО́НА»** («Altona» — прыгарад Гамбурга), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць мясцовага насельніцтва і партызан, якія вырваліся з акружэння ў ходзе карнай аперацыі *«Гамбург»*. Праводзілася ў 2-й пал. снежня 1942 у Навамышскім, Быценскім, Ляхавіцкім, Ганцавіцкім, Целяханскім р-нах сіламі 14-га паліцэйскага палка СС, спец. камандамі паліцыі бяспекі і СД і інш. карнымі баявымі групамі. Карнікі праследавалі партызан у кірунку Налібоцкай пушчы, на У і Пд, у раён Косава — Быцень. У загадзе групенфюрэра СС ген.-лейт. паліцыі Готберга ўказвалася: «Праз стараст і іншых падыходзячых асоб устанавіць асоб, якія спачуваюць партызанам, а таксама іншых падазроных асоб і знішчаць іх як яўрэяў і цыган. Асобныя падраздзяленні... маюць права бязлітасна распраўляцца з асобамі і вёскамі, якія прыхільна ставяцца да ворага». На працягу тыдня гітлераўцы беспаспяхова спрабавалі акружыць і знішчыць партызан, а потым учынілі крывавую расправу над мірнымі жыхарамі. Усяго ў ходзе «А.» расстраляна і спалена жывымі больш за тысячу дзяцей, жанчын і старых.

*У. С. Пасэ.*

**АЛЬХО́ЎСКІ** Мікалай Іванавіч (10.10.1909, в. Межава Аршанскага р-на — 26.8.1978), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1932. У Чырвонай Арміі з 1927. Скончыў Ваенна-паветр. акадэмію (1936). З лют. 1943 на Бранскім, Варонежскім, Сцяпным, 2-м Украінскім франтах, удзельнік Курскай бітвы, вызвалення Украіны, Малдавіі, Румыніі, Венгрыі, Чэхаславакіі. Камандзір эскадрыллі знішчальнага авіяпалка, маёр, зрабіў 128 баявых вылетаў, удзельнічаў у 34 паветр. баях, знішчыў 19 самалётаў праціўніка. Да 1953 у Сав. Арміі, падпалкоўнік.

**А́ЛЬЦЫ,** вёска на тэр. Пастаўскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1,5 км на З ад в. Малькавічы Дунілавіцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 93 чал. 19.1.1943 у час карнай аперацыі фашысты загубілі 72 жыхароў, вёску (21 двор) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1975 на месцы вёскі пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**АЛЬША́НСКІ** Прохар Мікалаевіч (н. 27.7.1913, с. Новаказанка Тэўрызскага р-на Омскай вобл.), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсамольска-маладзёжнага падполля і партыз. руху на тэр. Віцебскай і Вілейскай абласцей. Доктар гіст. навук (1973). Чл. КПСС з 1941. Скончыў БДУ (1952), Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК КПСС (1957). З ліп. 1941 на Зах. фронце, са снеж. 1941 у партыз. атрадзе. У крас.— кастр. 1942 сакратар Мехаўскага падп. РК ЛКСМБ, з ліст. 1942 упаўнаважаны ЦК ЛКСМБ па Вілейскай вобл. З 15.4 да 14.9.1943 сакратар, пасля да 5.7.1944 нам. сакратара *Вілейскага падпольнага абкома ЛКСМБ*, рэдактар абл. камсам. бюлетэня *«Молодёжь Белоруссии в борьбе за Родину»*. З 1944 на парт. рабоце і ў друку. З 1957 у апараце ЦК КПСС. З 1959 у Інстытуце славяназнаўства і балканістыкі АН СССР.

М. І. Альхоўскі. І. Е. Аляксееў. А. А. Аляхновіч. Я. А. Аляхновіч. С. Ф. Аляшкевіч. У. А. Амельяновіч.



**АЛЯКСЕ́ЕЎ** Іван Епіфанавіч (14.4.1909, Полацк — 16.1.1943), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1932. Скончыў Кіеўскую арт. школу (1933). Служыў у БВА. На фронце з 1941, удзельнік абароны Масквы. У студз. 1943 танк. брыгада палк. А. прарвала абарону праціўніка, прайшла па яго тылах 70 км, вызваліла дзесяткі населеных пунктаў, чыг. ст. Росаш Варонежскай вобл. Загінуў у баі. Пахаваны ў г. Росаш. Яго імем названы плошча і вуліца ў Росашы, вуліца і школа, дзе ён вучыўся, у Полацку. Каля школы бюст А., на яе будынку мемар. дошка.

**АЛЯХНО́ВІЧ** Антон Адамавіч (2.4.1914, в. Дабраводка Смалявіцкага р-на — 3.1.1980), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1943. Скончыў ваен. авіяцыйную школу пілотаў (1938). На фронце з вер. 1942 у авіяцыі далёкага дзеяння. Удзельнік баёў пад Сталінградам, Курскам, Ленінградам, вызвалення Беларусі, Украіны, Прыбалтыкі, Польшчы, Чэхаславакіі, Венгрыі. Нам. камандзіра авіяпалка маёр А. зрабіў 260 баявых вылетаў, 25 рэйсаў на дастаўцы грузаў бел. партызанам. Лятаў у глыбокі тыл праціўніка для знішчэння яго ваен.



У. С. Амельянюк. В. Е. Ананыч.



М. А. Ананьеў. У. К. Андрушчанка.



А. Я. Андрыенка. Жак Андрэ.

аб'ектаў. Да 1958 у Сав. Арміі, палк., да 1979 у грамадзянскай авіяцыі.

**АЛЯХНО́ВІЧ** Яўген Антонавіч (20.5.1920, г. п. Троіцка-Харцызск Данецкай вобл. — 13.1.1945), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1943. Беларус. Скончыў Варашылаўградскую ваен. авіяцыйную школу (1943). З ліп. 1943 на Варонежскім, Сцяпным, 2-м і 1-м Украінскіх франтах. Камандзір эскадрыллі штурмавога авіяпалка, ст. лейтэнант, зрабіў 165 баявых вылетаў на разведку і штурмоўку жывой сілы, тэхнікі і абарончых умацаванняў праціўніка. Збіў 4 самалёты. У баях за вызваленне Польшчы быў падбіты, накіраваў ахоплены полымем самалёт на зенітную батарэю праціўніка. Яго імем названы вуліцы ў г. Зугрэс і Харцызск Данецкай вобл., імя героя прысвоена школе ў Харцызску; у Зугрэсе пастаўлены помнік.

**АЛЯШКЕ́ВІЧ** Сцяпан Філімонавіч (1910, в. Перавоз Бярэзінскага р-на — 4.5.1944), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС. На фронце з сак. 1943, разведчык. Удзельнік баёў пад г. Корсунь-Шаўчэнкаўскім, Уманню. Вызначыўся вясной 1944 пры фарсіраванні Паўд. Буга: з групай разведчыкаў пераправіўся цераз раку і вёў бой супраць намнога большых сіл праціўніка за расшырэнне плацдарма, садзейнічаў паспяховай пераправе палка. Загінуў пры ўзрыве моста ў тыле ворага на р. Малдова (Румынія), пахаваны на ст. Вама. Яго імем названа вуліца ў г. Беразіно; у в. Чыжаха Бярэзінскага р-на помнік А.

**АМЕЛЬЯНО́ВІЧ** Уладзімір Аляксандравіч (н. 1.7.1924, в. Падкасоўе Навагрудскага р-на), поўны кавалер ордэна Славы, заслужаны работнік сельскай гаспадаркі БССР (1975). З 1944 на 3-м Бел. і 1-м Далёкаўсх. франтах. Разведчык сапёрнага батальёна, яфрэйтар, вызначыўся ў баях ва Усх. Прусіі: 28.12.1944 з групай пад агнём ворага зрабіў 3 праходы ў мінных палях; каля Кёнігсберга ўдзельнічаў у разведцы абароны праціўніка; 30.3.1945 у драцяной загародзе ворага зрабіў праход для разведкі; 2—5.4.1945 размініраваў мінныя палі каля пярэдняга краю сав. абароны. Вызначыўся таксама пры разгроме Квантунскай арміі Японіі на Далёкім Усходзе. Жыве і працуе на радзіме.

**АМЕЛЬЯНЮ́К** Уладзімір Сцяпанавіч (1917, г. Дно Пскоўскай вобл. — 26.5.1942), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў *Мінскага партыйнага падполля*. Герой Сав. Саюза (1965). Чл. КПСС з 1942. Напярэдадні вайны студэнт Камуніст. ін-та журналістыкі імя Кірава ў Мінску. З жн. 1941 у складзе Камароўскай падп. парт. групы. Пісаў лістоўкі, размнажаў і распаўсюджваў зводкі Саўінфармбюро, падтрымліваў сувязь з *Дзяржынскім партыйна-камсамольскім падполлем* і партыз. атрадамі Мінскай вобл. З пач. мая 1942 чл. *Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б*, заг. аддзела агітацыі і прапаганды, рэдактар падп. выданняў, 1-га нумара падп. газ. *«Звязда»*. Удзельнічаў у стварэнні падп. друкарні, вызваленні ваеннапалонных з лагераў смерці і адпраўцы іх у партыз. атрады. Загінуў пры выкананні баявога задання. У Мінску і Дзяржынску яго імем названы вуліцы, устаноўлены мемар. дошкі, недалёка ад месца гібелі памятны знак; у пас. Самахвалавічы Мінскага р-на, дзе А. вучыўся ў школе, помнік.

**АНА́НЫЧ** Васіль Емяльянавіч (15.2.1900, в. Турэц Чэрвеньскага р-на — 20.12.1977), контр-адмірал (1944). Чл. КПСС з 1925. У Чырвонай Арміі з 1920, на флоце з 1921. Скончыў Ваенна-паліт. акадэмію імя Леніна (1937), Акадэмію Генштаба (1952). З 1932 камісар падводнай лодкі, дывізіёна, брыгады падводных лодак. З 1940 нам. нач. Палітупраўлення Паўн. флоту. У Айч. вайну абараняў Запаляр'е, удзельнічаў у праводцы і ахове арктычных і саюзніцкіх канвояў. З вер. 1941 чл. ваен. савета Беламорскай ваен. флатыліі. З ліп. 1945 нам. нач. Палітупраўлення Балтыйскага флоту, з 1946 чл. ваен. савета Паўн.-Балтыйскага флоту. У 1953—57 працаваў у сістэме ваенна-марскіх навучальных устаноў.

**АНА́НЬЕЎ** Марцін Аляксеевіч (н. 27.4.1900, в. Ісайкі, Гарадоцкі р-н), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1943. Удзельнік грамадзянскай вайны. У Айч. вайну на фронце з мая 1942. Удзельнік Курскай бітвы, вызвалення Украіны, Польшчы, штурму Берліна. Парторг роты ст. сяржант А. вызначыўся пры вызваленні Сумскай і Чарнігаўскай абл. і пры фарсіраванні Дняпра на Пн ад Кіева. 27.9.1943 кулямётны разлік пад яго камандаваннем у ліку першых фарсіраваў Дняпро, адбіў некалькі контратак, расшырыў захоплены плацдарм і знішчыў каля 70 гітлераўцаў. Пасля вайны да 1960 на адм.-гаспадарчай рабоце.

**АНДРУ́ШЧАНКА** Уладзімір Кузьміч (17.5.1919, с. Зарачаны Жытомірскага р-на — 14.7.1986), Герой Сав. Саюза (1944), ген.-лейт. (1968). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Адэскае ваен. пяхотнае вучылішча (1939), ваен. акадэміі імя Фрунзе (1947) і Генштаба (1954). Удзельнік сав.-фінляндскай вайны 1939—40. Са студз. 1942 на Паўд.-Зах., Зах., 2-м Бел. франтах. Удзельнік баёў у в. Леніна Горацкага р-на і г. Орша ў 1943, зімой 1944 пад Віцебскам, *Беларускай аперацыі 1944*. Полк пад яго камандаваннем вызначыўся ў *Магілёўскай аперацыі 1944*: 23 чэрв. ў час прарыву абароны праціўніка каля р. Проня; 26 чэрв. ў в. Дабрэйка Шклоўскага р-на першы фарсіраваў Дняпро, што садзейнічала наступленню сав. войск. З 23 да 28 чэрв. полк прайшоў з баямі больш за 80 км, вызваліў 39 нас. пунктаў. Да 1983 служыў у Сав. Арміі.

**АНДРЫЕ́НКА** Аляксандр Ягоравіч (н. 7.1.1923, в. Радзеева Буда-Кашалёўскага р-на), поўны кавалер ордэна Славы. У пач. вайны партыз. сувязны, на фронце з ліст. 1943. Стралок, разведчык А. на бабруйскім напрамку 24.6.1944 зрабіў праходы ў драцяной загародзе і мінных палях праціўніка; каля г. Ломжа (Польшча) з групай разведчыкаў захапіў варожы дот і 2 «языкоў»; 14.1.1945 у час прарыву абароны праціўніка на Вісленскім плацдарме вывеў са строю гармату, знішчыў 5 і ўзяў у палон 12 гітлераўцаў; у сак. 1945 удзельнічаў у ліквідацыі варожага гарнізона ў населеным пункце Фокільзан (Германія), знішчыў дзот. Жыве і працуе на радзіме.

**АНДРЭ́** (André) Жак (н. 25.2.1919, Парыж), французскі лётчык, удзельнік баёў на Беларусі, Герой Сав. Саюза (1945). Заслужаны лётчык Францыі. З 1943 у СССР у складзе знішчальнага авіяпалка *«Нармандыя — Нёман»* 1-й паветр. арміі. Удзельнік Віцебска-Аршанскай, Усх. Прускай, Кёнігсбергскай аперацый. Зрабіў 113 баявых вылетаў, удзельнічаў у 19 паветр. баях. Збіў 15 самалётаў праціўніка, 2 у групе, 3 пашкодзіў.

А. Я. Андрэеў. С. П. Анішчанка. А. А. Анпілаў. Ф. К. Анташкевіч.



**АНДРЭ́ЕЎ** Анатоль Яўгенавіч (н. 14.9. 1916, г. Рагачоў), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай і Беластоцкай абл., дзярж. дзеяч БССР. Герой Сацыяліст. Працы (1976). Чл. КПСС з 1943. Скончыў ВПШ пры ЦК КПСС (1959). З вер. 1941 у тыле ворага, з ліст. 1941 адзін з кіраўнікоў падп. дыверсійнай групы, якая дзейнічала на Аршанскім чыг. вузле, з лют. 1942 камісар партыз. атрада (гл. *Партызанская брыгада 1-я імя К. С. Заслонава*), з сак. 1943 камісар, у ліст. 1943 — жн. 1944 камандзір партыз. атрада «Камсамол Беларусі» *партызанскай брыгады імя Кастуся Каліноўскага*, адначасова чл. Беластоцкага падп. РК КП(б)Б. З 1961 нач. Гал. упраўлення аўтатранспарту пры СМ БССР, у 1963—84 міністр аўтатранспарту БССР. Старшыня камісіі па справах партызан і падпольшчыкаў пры Прэзідыуме ВС БССР. Чл. ЦК КПБ у 1966—86, з 1986 нам. старшыні Рэвізійнай камісіі КПБ. Дэп. ВС БССР у 1963—85.

**АНДРЭ́ЕЎ** Мікалай Рыгоравіч (н. 13. 12.1915, с. Борскае Куйбышаўскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1949. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КПБ (1953). З 22.6.1941 на Зах. фронце, удзельнік абароны Гродна. У партызанах з жн. 1941: камандзір узвода, з сак. 1943 нач. штаба атрада, у чэрв. 1943 — чэрв. 1944 камандзір *партызанскай брыгады 2-й Мінскай*. З 1944 на адм.-гаспадарчай і гаспадарчай рабоце.

**АНІ́СЬКАВА,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на Пн ад в. Вознава Сар'янскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 54 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»*, фашысты загубілі 32 жыхары, вёску (12 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1982 на месцы вёскі насыпаны курган, на вяршыні якога ўстаноўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**АНІ́ШЧАНКА** Мікалай Іванавіч (3.6. 1899, Гомель — 25.1.1971), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Гомельскай вобл. Чл. КПСС з 1924. Скончыў Вышэйшую школу прапагандыстаў пры ЦК ВКП(б) імя Свярдлова (1937). У 1937—41 сакратар Лоеўскага РК КП(б)Б. У жн. 1941 ЦК КП(б)Б пакінуты ў тыле ворага для арганізацыі партыз. руху. З жн. 1941 у Лоеўскім атрадзе «За Радзіму», у вер. 1942 — лют. 1943 яго камісар (гл. ў арт. *Партызанская брыгада Лоеўская «За Радзіму»*), адначасова з 26.8.1941 да лют. 1943 сакратар Лоеўскага падп. РК КП(б)Б. З 1943 сакратар Свяцілавіцкага, Уваравіцкага райкомаў КП(б)Б. У 1946—58 адказны сакратар Гомельскага аблвыканкома.

**АНІ́ШЧАНКА** Сяргей Пятровіч (20.4. 1923, в. Сцяпы Жлобінскага р-на — 31.7.1944), Герой Сав. Саюза (1945). У пач. вайны партыз. сувязны, з восені 1943 у Чырвонай Арміі. Вызначыўся 24—25.6.1944 пры вызваленні Рагачоўскага р-на. Пад агнём праціўніка з групай байцоў пераплыў Друць каля в. Каласы, закідаў гранатамі варожую траншэю, захапіў плацдарм, знішчыў 20 гітлераўцаў, 12 узяў у палон. Загінуў у баі на тэр. Польшчы, пахаваны ў в. Стрэбня Беластоцкага ваяводства. Яго імем названа вуліца на радзіме і пастаўлены помнік, імя героя прысвоена школе ў в. Шчадрын Жлобінскага р-на, дзе ён вучыўся.

**АНІ́ШЧЫК** Міхаіл Трафімавіч (16.10. 1905, в. Була Івацэвіцкага р-на — 8.2.1973), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1925. З 1926 у легальнай рэвалюцыйна-дэмакратычнай нацыянальна-вызваленчай арг-цы: Беларуская сялянска-рабочая грамада. У 1929 сакратар Слонімскага акруговага к-та КСМЗБ. У 1934 сакратар Слонімскага акруговага к-та КПЗБ. За рэвалюцыйную дзейнасць тройчы зняволены ў турмы. Пасля ўз'яднання Зах. Беларусі з БССР старшыня Слонімскага гарвыканкома. У Айч. вайну ў Чырвонай Арміі, з чэрв. 1943 у тыле ворага, пам. упаўнаважанага ЦК КП(б)Б і БШПР па Баранавіцкай вобл., кіраўнік *Слонімскага падпольнага міжрайпартцэнтра* (14 жн. — снеж. 1943), у вер. 1943 — ліп. 1944 сакратар Слонімскага падп. РК КП(б)Б, рэдактар яго падп. органа — газ. *«Вольная праца»*. Пасля вайны на парт. і сав. рабоце. Дэп. ВС БССР у 1955 — 63. Яго імем названа вуліца ў г. Слонім.

**АНКІНО́ВІЧ** Лявон Нікіфаравіч (1907, в. Кашына Аршанскага р-на — 27.9. 1943), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1932. З 1926 на сав. і адм. рабоце. З ліп. 1941 чл. Аршанскага падп. партцэнтра, які стварыў падполле ў горадзе і раёне і кіраваў ім; з мая 1942 да вер. 1943 камісар партыз. атрада імя Варашылава («Мсціўцы») брыгады 1-й імя Заслонава, адначасова з чэрв. 1943 2-і сакратар Аршанскага падп. РК КП(б)Б. Загінуў пры выкананні баявога задання каля в. Камішчына Сенненскага р-на. Пахаваны ў в. Забалацце Аршанскага р-на ў брацкай магіле сав. воінаў і падпольшчыкаў, побач з якой яму пастаўлены абеліск.

**АНПІ́ЛАЎ** Анатоль Андрэевіч (н. 7.11. 1914, г. Стары Аскол Белгародскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1944), ген.-маёр авіяцыі (1959). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Сталінградскую ваен. школу лётчыкаў (1936), Ваенна-паветр. акадэмію (1948). Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі і Зах. Украіны ў 1939, сав.-фінляндскай вайны 1939—40. З чэрв. 1941 на Паўд.-Зах., Сталінградскім, Бранскім, Цэнтр., Бел., 1-м Бел. франтах. Камандзір эскадрыллі бамбардзіроўшчыкаў капітан А. вызначыўся ў Сталінградскай і Курскай бітвах, Бранскай і Гомельска-Рэчыцкай аперацыях 1943, у Бабруйскай і Мінскай аперацыях 1944. Зрабіў 193 баявыя вылеты. Да 1971 у Сав. Арміі.

**АНТАНО́ВІЧ** Уладзімір Майсеевіч (1.7. 1910, Мінск — 4.7.1971), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Пінскай вобл. Чл. КПСС з 1937. Удзельнік абароны Кіева ў 1941. У партызанах з студз. 1942: камандзір групы, з снеж. 1942 камісар, камандзір атрада, у жн.— ліст. 1943 — *партызанскай брыгады імя С. М. Будзённага*, у ліст. 1943 — ліп. 1944 — *партызанскай брыгады імя В. У. Куйбышава*, адначасова чл. Ленінскага, Лагішынскага падп. РК

КП(б)Б. Пасля вайны на гаспадарчай рабоце.

**АНТАНЮ́К** Максім Антонавіч (1895, в. Мацы Кобрынскага р-на — 30.7.1961), ген.-лейт. (1940). Чл. КПСС з 1918. З 1915 у арміі, з кастр. 1917 у Чырвонай гвардыі, удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 у Петраградзе, грамадзянскай вайны. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1927). У Айч. вайну камандуючы 2-й, 3-й рэзервовай і 48-й арміямі, групай войск 54-й арміі, Мгінскай аператыўнай групай войск Ленінградскага фронту; нам. камандуючага Сцяпной ваен. акругі. З 1947 у запасе. Чл. ЦВК БССР у 1927.

**АНТАШКЕ́ВІЧ** Фёдар Кузьміч (1922, в. Казігорка Талачынскага р-на — 4.3.1945), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1942. На фронце з кастр. 1941. Камандзір гарматы ст. сяржант А. вызначыўся ў баях за г. Губен (Германія). З 27.2 да 4.3.1945 разлік гарматы А. адбіў 8 варожых контратак, прычыніў праціўніку страты ў жывой сіле і тэхніцы. Загінуў у баі. Пахаваны ў г. Вільгельм-Пік-Штат-Губен.

**АНТО́НАЎ** Аляксей Інакенцьевіч (15.9.1896, Гродна — 18.6.1962), ген. арміі (1943). Чл. КПСС з 1928. У арміі з 1916, у Чырвонай Арміі з 1919. Удзельнік 1-й сусветнай і грамадзянскай войнаў. Скончыў ваен. акадэміі імя Фрунзе (1931), Генштаба (1937). З 1938 на выкладчыцкай рабоце. З жн. 1941 нач. штаба Паўд., Паўн.-Каўказскага і Закаўказскага франтоў, Чарнаморскай групы войск. Са снеж. 1942 1-ы нам. нач. Генштаба і нач. Аператыўнага ўпраўлення, удзельнік распрацоўкі плана *Беларускай аперацыі 1944.* З лют. 1945 нач. Генштаба. Удзельнік Крымскай і Берлінскай (Патсдамскай) канферэнцый. У 1946—48 і з 1954 1-ы нам. нач. Генштаба, з мая 1955 адначасова нач. Штаба Аб'яднаных Узброеных сіл дзяржаў — удзельніц Варшаўскага Дагавора. Дэп. ВС СССР з 1946. У ліку ўзнагарод ордэн «Перамога». Урна з прахам А. у Крамлёўскай сцяне. Яго імем названы вуліца і сярэдняя школа № 11 у Гродне. У доме, дзе ён нарадзіўся, створаны музей А., на доме ўстаноўлена мемар. дошка.

**АНТО́НАЎ** Міхаіл Майсеевіч (11.3.1923, г. п. Краснаполле — 4.8.1943), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. ВЛКСМ. Скончыў танк. вучылішча (1941). На фронце з 1941. Камандзір танк. ўзвода ст. лейт. А. вызначыўся ў ліп.—жн. 1943 пры вызваленні Арла: на падыходзе да горада яго ўзвод 7 разоў атакаваў праціўніка — пракладваў шлях пяхоце; 4.8.1943 танкісты яго ўзвода першыя ўварваліся ў горад. Загінуў у баі. Пахаваны ў Арле, на магіле абеліск. Яго імем названа вуліца, імя героя прысвоена школе (на будынку мемар. дошка) у г. п. Краснаполле, дзе ён вучыўся, і школе ў г. п. Коўпны Арлоўскай вобл.

**АНТО́НАЎКА,** вёска на тэр. Крычаўскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася ў Маляцінкім сельсавеце. Перад вайной у ёй жыло 115 чал. У вер. 1941 фашысты загубілі 92 жыхароў, вёску (22 двары) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**АНТО́НЕНКА** Аляксей Касьянавіч (23.2.1911, в. Васькавічы Віцебскага р-на — 25.7.1941), Герой Сав. Саюза (1941). Чл. КПСС. Скончыў Ейскую школу марскіх лётчыкаў (1932). Падрыхтаваў больш за 100 ваен. лётчыкаў. Удзельнік баёў на р. Халхін-Гол у 1939 (збіў 6 самалётаў), сав.-фінляндскай вайны 1939—40. На фронце з чэрв. 1941. Лётчык-знішчальнік капітан А. абараняў Ленінград. Збіў 11 варожых самалётаў. Загінуў у баі. Пахаваны на паўвостраве Ханка (Фінляндыя). Залічаны навечна ў спісы авіяпалка, дзе ён служыў. Яго імем названы вуліца ў Ленінградзе, пасёлак у Ленінградскай вобл.


А. І. Антонаў.


М. М. Антонаў.


А. К. Антоненка.


І. А. Арлоў.

**АНТО́ПАЛЬ,** гарадскі пасёлак у Драгічынскім р-не. Размешчаны за 28 км на У ад Драгічына, за 2 км ад чыг. ст. Антопаль (на лініі Брэст — Пінск), на аўтадарозе Кобрын — Драгічын. У 1940—59 цэнтр Антопальскага р-на. 25.6.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў пасёлку і раёне знішчылі 4390 сав. грамадзян, у т. л. 2,5 тыс. чал. у лагеры смерці. На тэр. раёна дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б (вер. 1943—12.7.1944) і ЛКСМБ (вер. 1943—12.7.1944), партыз. брыгада імя Свярдлова, атрады імя Катоўскага, імя Кірава, спецгрупа «Іскра» (гл. адпаведныя артыкулы). Вызвалены ад фаш. акупантаў 16.7.1944 часцямі 12-й гвардз. стралк. дывізіі (ген.-маёр Дз. К. Малькоў) 9-га гвардз. стралк. корпуса 61-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе *Беларускай аперацыі 1944.* У А. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, на ёй устаноўлены помнік. *М. І. Камінскі.*

**АНТЫФАШЫ́СЦКІЯ АРГАНІЗА́ЦЫІ,** падпольныя патрыятычныя групы, арг-цыі, к-ты, якія дзейнічалі на акупіраванай ням.-фаш. захопнікамі тэр. Беларусі, пераважна ў зах. абласцях, пад кіраўніцтвам мясцовых падп. органаў і арг-цый КП(б)Б. Ствараліся камуністамі, камсамольцамі, беспарт. актывістамі. Многія А. а. ўзніклі па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам б. членаў КПЗБ і КСМЗБ перш за ўсё ў тых раёнах, дзе ў перыяд панавання буржуазнай Польшчы актыўна дзейнічала парт. і камсам. падполле. У сваёй рабоце б. члены КПЗБ і КСМЗБ творча выкарыстоўвалі вопыт нацыянальнавызваленчай барацьбы, арганізацыйныя формы і структуру рэвалюцыйнага падполля. Антыфашысцкімі называліся таксама асобныя падп. парт.-камсам. арг-цыі і к-ты, якія дзейнічалі ва ўсх. абласцях рэспублікі. Вялікую праслойку ў А. а. складалі камуністы і камсамольцы, б. члены КПЗБ і КСМЗБ. А. а. уласцівы выразная структура, высокая арганізаванасць, канспірацыя, сувязь з шырокімі слаямі мясцовага насельніцтва. Асновай А. а. была тэр. ячэйка (група з 3—5 чал., радзей з 7) на чале з сакратаром (напачатку выбіраўся, пазней назначаўся). 5—7 ячэек аб'ядноўваліся ў падраён (часам гэта звяно адсутнічала), 3—4 падраёны — у падп. раённую А. а., якой кіраваў камітэт. У Вілейскай, Пінскай, на У Баранавіцкай абл. раённыя А. а. не ствараліся, дзейнасць ячэек накіроўвалі парт. арг-цыі партыз. атрадаў і брыгад. У склад раённага антыфаш. к-та ўваходзілі сакратар, 2 намеснікі, «тэхнік» (забяспечваў падпольшчыкаў л-рай і інш. матэрыяламі), інструктар. Раённыя А. а. аб'ядноўваліся ў міжраённыя (акруговыя), абл. арг-цыі на чале з іх к-тамі. На тэр. Беларусі дзейнічалі 2 *абласныя антыфашысцкія арганізацыі,* 3 *міжраённыя (акруговыя) антыфашысцкія арганізацыі,* 4 *гарадскія антыфашысцкія арганізацыі,* 27 *раённых антыфашысцкіх арганізацый,* якія аб'ядноўвалі больш за 12 тыс. чал. Вакол А. а. групаваліся «сімпатыкі» (спачуваючыя). Яны дапамагалі наладжваць сувязь з насельніцтвам, арганізоўваць яго на барацьбу з акупантамі. Члены А. а. праводзілі паліт.-масавую работу, падтрымлівалі сувязь з партыз. фарміраваннямі, удзельнічалі ў іх стварэнні (самі арганізавалі больш за 10 груп і атрадаў),

папаўнялі іх рады новымі байцамі, забяспечвалі зброяй і боепрыпасамі, медыкаментамі, цёплай вопраткай, прадуктамі, рабілі дыверсіі на прадпрыемствах і транспарце, вялі разведку на камунікацыях ворага, зрывалі ваен., эканамічныя, паліт. і арганізацыйныя мерапрыемствы акупантаў.

Аддаючы значную ўвагу дзейнасці А. а., ЦК КП(б)Б у сваім пісьме «Аб ваенна-палітычных задачах работы ў заходніх абласцях БССР» ад 22.6.1943 падкрэсліваў неабходнасць узмацнення парт. кіраўніцтва дзейнасцю А. а., умелага выкарыстання рэвалюцыйных традыцый насельніцтва зах. абласцей БССР і вопыту падп. барацьбы КПЗБ, указваў, што стварэнне ў гарадах і вёсках разгалінаванай сеткі падп. антыфаш. арг-цый з беспарт. патрыётаў мае вял. значэнне ва ўмацаванні сувязі з масавай, набываючай усё больш размах партыз. барацьбой супраць гітлераўскіх захопнікаў. Сярод арганізатараў і кіраўнікоў антыфаш. падполля ў зах. абласцях рэспублікі былі І. П. *Урбановіч*, А. С. *Азончык*, Д. К. *Сукачоў*, Я. М. Афанасьеў, М. М. Уладыка, Б. І. Гардзейчык, А. М. Дурэйка, І. І. Жышка, М. Е. *Крыштафовіч*, А. Ф. Манковіч, А. М. Мініч, Ф. З. Міськo, М. А. Несцярук, М. І. Паўлоўскі, М. Ф. Трында, В. В. Янушка і інш.

*Л. В. Аржаева, П. П. Ліпіла.*

К. І. Арлоўскі К. П. Арлоўскі.





Помнік К. П. Арлоўскаму ў в. Мышкавічы.

**АРАСТО́ВІЧ** Іван Васілевіч (4.12.1909, в. Рабак Слуцкага р-на — 30.7.1978), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1938. З 1931 у Чырвонай Арміі. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. З чэрв. 1941 на Зах. фронце. З жн. 1941 па заданню Мінскага падп. абкома КП(б)Б займаўся арганізацыяй партыз. атрада. З чэрв. 1942 кіраўнік дыверсійнай групы, пам. камандзіра, з кастр. 1942 камандзір партыз. атрада, у чэрв.— вер. 1943 — *партызанскай брыгады 225-й імя А. В. Суворава*, у вер. 1943 — чэрв. 1944 — *партызанскай брыгады 95-й імя М. В. Фрунзе*, адначасова чл. Грэскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—63 на сав. і гаспадарчай рабоце.

**АРЖАВУ́ХАВА,** вёска на тэр. Віцебскага р-на, знішчаная ням.-фашт. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на Пд ад в. Уласава Суражскага пасялковага Савета. Перад вайной у ёй жыло 32 чал. 11.12.1942, у час карнай аперацыі *«Зімовы лес»*, фашысты загубілі 23 жыхароў, вёску (13 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**АРЗУМАНЯ́Н** Сумбат Хачатуравіч (н. 17.11.1917, с. Гюнейкалер Мартунінскага р-на Нагорна-Карабахскай аўтаномнай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Брэсцкай вобл. Чл. КПСС з 1946. Скончыў Чарнавіцкі ун-т (1959). З ліп. 1941 на фронце. У партызанах з вер. 1941: камандзір узвода, роты, у кастр. 1943 — сак. 1944 *партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна*, з мая 1944 у распараджэнні БШПР. З 1945 у органах КДБ, з 1959 на гаспадарчай рабоце. Аўтар кнігі успамінаў «Зямля палала» (1974).

**АРЛО́ВА,** вёска на тэр. Полацкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 5 км на ПдЗ ад в. Новыя Гараны Гаранскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 59 чал. У чэрв. 1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 21 жыхара, у т. л. дзяцей, вёску (10 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**АРЛО́Ў** Іван Аляксеевіч (10.11.1902, Віцебск — 2.9.1980), ген.-лейт. (1944). Чл. КПСС з 1926. У Чырвонай Арміі з 1922. Скончыў Ваенна-паліт. акадэмію (1936). Перад вайной нач. палітаддзела Вышэйшых курсаў палітсаставу. З 1941 ваенком знішчальнага авіякорпуса, чл. Ваен. савета войск ППА краіны, Зах., Паўн., Цэнтр. франтоў ППА. Удзельнік абароны Масквы, Сталінграда, Ленінграда. Да 1953 у Сав. Арміі — чл. ваен. савета акругі ППА, у цэнтр. апараце Міністэрства абароны СССР.

**АРЛО́ЎСКІ** Вячаслаў Канстанцінавіч (н. 14.10.1913, г. Лепель), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1942. Скончыў Гомельскі лесатэхнічны ін-т (1935). Удзельнік сав.-фінляндскай вайны 1939—40. З чэрв. 1942 у партызанах: камісар атрада, з сак. 1943 *партызанскай брыгады 47-й «Перамога»*. У 1944—70 на адм.-гаспадарчай рабоце на Беларусі і ў Іркуцкай вобл.

**АРЛО́ЎСКІ** Канстанцін Іванавіч (15.12. 1913, г. Быхаў — 22.7.1944), Герой Сав. Саюза (1945). Удзельнік сав.-фінляндскай вайны 1939—40. На фронце з чэрв. 1941. Камандзір танк. батальёна, капітан, вызначыўся ў ліп. 1944 пры вызваленні Латвіі. Батальён пад яго камандаваннем двойчы прарываў умацаванні ворага на дзвінскім участку фронту. За 8 дзён наступлення прайшоў каля 300 км, перарэзаў шляхі адыходу дзвінскай групоўцы праціўніка, знішчыў 12 танкаў, 8 самаходных гармат, 8 танкеткак, больш за 40 процітанк. гармат. Загінуў у баі. Пахаваны ў Даўгаўпілсе ў брацкай магіле. Яго імем названы вуліцы ў Быхаве і Даўгаўпілсе; у Быхаве на будынку былой школы, дзе ён вучыўся, мемар. дошка.

**АРЛО́ЎСКІ** Кірыла Пракопавіч (30.1. 1895, в. Мышкавічы Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл. — 13.1.1968), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху на Беларусі ў грамадзянскую і Айч. войны, у Зах. Беларусі (1921—25). Герой Сав. Саюза (1943), Герой Сацыяліст. Працы (1958). Чл. КПСС з 1918. Скончыў Камуніст. ун-т нацыянальных меншасцей Захаду імя Мархлеўскага ў Маскве (1930). З 1915 у арміі. У 1918 у час ням. акупацыі Беларусі па заданню Бабруйскага падп. раённага к-та партыі арганізаваў і ўзначаліў партыз. атрад. З студз. 1922 камандзір партыз. атрада ў зах.-бел. Палессі (псеўданімы Аршынаў, Муха-Міхальскі). Удзельнік нацыянальна-рэвалюцыйнай вайны ў Іспаніі (1936—39). З 1942 на акупіраванай тэр. Беларусі. Арганізатар і камандзір *партызанскага атрада «Сокалы»*, на базе якога створаны 3 атрады. Атрад пад яго камандаваннем у лют. 1943 знішчыў гебітскамісара Баранавіцкай акругі обергрупенфюрэра войск СА, захапіў дакументы. У час аперацыі А. цяжка паранены. У 1944 выбраны старшынёй калгаса «Рассвет» у Кіраўскім р-не. Пад яго кіраўніцтвам калгас вырас у буйную шматгаліновую гаспадарку. Канд. у чл. ЦК КПСС у 1956—61, чл. ЦК КПБ з 1949. Дэп. Вярх. Савета СССР з 1950, Вярх. Савета БССР у 1947—51. Яго імя прысвоена калгасу «Рассвет», школе ў Кіраўску, ПТВ у в. Буйнічы Магілёўскага р-на; імем

героя названы вуліцы ў Бабруйску, Ганцавічах, Кіраўску, Клецку, Ляхавічах, Магілёве; на радзіме помнік.

**«АРО́Л»** («Adler»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партызан і цывільнага насельніцтва *Клічаўскай партызанскай зоны* 20.7—10.8.1942, працяг аперацыі *«Хрушч»*. Праводзілася сіламі баявой групы «Арол», якая складалася з часцей вышэйшага начальніка СС і паліцыі «Расія — Цэнтр» групенфюрэра СС Баха-Зелеўскага, часцей 203-й і 286-й ахоўных дывізій, а таксама 2-га паліцэйскага палка, 2 артдывізіёнаў, узмоцненых каманд тайнай палявой паліцыі і СД і зондэркаманд пад агульным камандаваннем ген. маёра Рыхерта. Мэта аперацыі: акружыць і знішчыць партыз. атрады ў квадраце Беразіно — Бялынічы — Свіслач — Быхаў, расправіцца з насельніцтвам, захапіць і вывезці з раёна дзеяння запасы прадуктаў, збожжа, жывёлу. На ўсім фронце партыз. абароны пачаліся цяжкія баі. На асобных участках нар. мсціўцы вымусілі карнікаў заняць абарону. Усе атрады былі ў аператыўным падпарадкаванні партыз. атрада 208-га імя Сталіна (гл. *Партызанскі полк 208 ы імя І. В. Сталіна*). 25 ліп. па рашэнню падп. райкома і камандавання партызаны пакінулі Клічаў і адыходзілі на ПнУ, за чыг. Асіповічы — Магілёў, ва Усакінскія лясы, дзе разлічвалі перагрупаваць сілы, папоўніць запасы ўзрыўчаткі і боепрыпасаў і выйсці ў зададзеныя раёны. З партызанамі адыходзілі мясцовыя жыхары, што ратаваліся ад карнікаў. У канцы ліп. ва Усакінскіх лясах сканцэнтравалася 11 партыз. атрадаў (больш за 2 тыс. байцоў) і некалькі тысяч жанчын, старых і дзяцей. Усе выхады з лесу гітлераўцы перакрылі, пачалася блакада. Лес падвяргаўся бамбёжкам, арт. і мінамётнаму абстрэлу. Спроба ваен. савета Зах. фронту даставіць боепрыпасы і медыкаменты самалётамі не ўдалася. 30 ліп. Рыхерт прапанаваў камандзіру 208-га партыз. атрада палк. У. І. *Нічыпаровічу* заключыць перамір'е, але прапанова карнікаў была адхілена. 1-я і 2-я роты 208-га атрада каля в. Усакіна ў ноч на 3 жн. знішчылі загароды карнікаў і забяспечылі партыз. атрадам і мясцовым жыхарам выхад з акружэння. Партызан, якія вырваліся з блакады, гітлераўцы праследавалі і ў сярэдзіне жн. на ПнУ ад Рагачова і ў раёне Асіповіч правялі карныя аперацыі «Лютцаў» («Lutzow») і «Дружба» («Freundschaft»). У час карных аперацый «Хрушч» і «А.» з 30 чэрв. да 10 жн. карнікі загубілі больш за 1,5 тыс. цывільных жыхароў, захапілі больш за 3 тыс. галоў жывёлы, спалілі 31 вёску, у т. л. Дубна (загубілі 120 чал.), *Вязень*, Гонча, Лазье, Межнае, Альхоўка, Астапаўка, Падстружжа і Палосы (усяго 57 чал.), Рубеж і Усакіна (85 чал.), *Сялец* Клічаўскага р-на, Бераснёўка (22 чал.), Гогаль (22 чал.), Кострычы (51 чал.), Нямкі (36 чал.), Новы Гарадок (27 чал.), Сяліба (13 чал.), Чагірынка (14 чал.) Кіраўскага р-на, Красніца 1-я (696 чал.), Ляжанка (15 чал.) Быхаўскага р-на і інш.

*В. С. Лазебнікаў, У. С. Пасэ.*

**АРХІ́ВЫ** Вялікай Айчыннай вайны. Дакументы перыяду Вял. Айч. вайны, якія адлюстроўваюць уклад сав., у т. л. бел., народа ў перамогу над ням.-фаш. захопнікамі, раскрываюць важнейшыя падзеі вайны на тэр. рэспублікі, захоўваюцца ў Цэнтр. архіве Міністэрства абароны СССР, Цэнтр. парт. архіве Ін-та марксізму-ленінізму пры ЦК КПСС, Парт. архіве Ін-та гісторыі партыі пры ЦК КПБ, Цэнтр. дзярж. архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі, вышэйшых органаў дзярж. улады і органаў дзярж. кіравання СССР, Цэнтр. дзярж. архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыяліст. будаўніцтва БССР, абласных дзярж., парт. і ведамасных архівах, рукапісных аддзелах пісьмовых крыніц музеяў і бібліятэк рэспублікі.

Цэнтральны архіў Міністэрства абароны СССР (ЦАМА СССР; г. Падольск Маскоўскай вобл., Варшаўская шаша, 9а). Буйнейшае ў СССР сховішча ваен. дакументаў — каля 19 млн. спраў. За 1941—45 каля 10 млн. спраў, у т. л. матэрыялы пра ўдзел воінаў-беларусаў на франтах Вял. Айч. вайны, пра важнейшыя баявыя аперацыі на тэр. Беларусі, пра Герояў Сав. Саюза, военачальнікаў, якія вызначыліся ў баях за Беларусь, беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі; дакументы пра ўзаемадзеянне часцей Чырвонай Арміі з партызанамі Беларусі.

Цэнтральны партыйны архіў Інстытута марксізму-ленінізму пры ЦК КПСС (ЦПА ІМЛ пры ЦК КПСС; г. Масква, вул. Пушкінская, 15) захоўвае дакументы, якія адлюстроўваюць усенар. барацьбу супраць ням. фаш. захопнікаў пад кіраўніцтвам Камуніст. партыі, у т. л. на Беларусі.

Партыйны архіў Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ (ПА ІГП пры ЦК КПБ; г. Мінск, вул. Кірава, 43) зберагае ў 900 фондах (каля 22 тыс. спраў) дакументальныя матэрыялы пра ўсенар. барацьбу супраць акупантаў на Беларусі, у т. л. дакументы ЦК КП(б)Б, падп. парт. і камсам. органаў і арг-цый, БШПР, партыз. злучэнняў, брыгад і атрадаў, падп. арг-цый і груп, калекцыі лістовак, баявых лісткоў, рукапісных часопісаў, плакатаў, перыядычнага друку ваен. часу, а таксама дакументы аб працоўным гераізме насельніцтва рэспублікі па аказанню дапамогі фронту, аднаўленню разбуранай нар. гаспадаркі Беларусі.

У Цэнтр. дзярж. архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі, вышэйшых органаў дзярж. улады і органаў дзярж. кіравання СССР (ЦДАКР СССР, г. Масква, вул. Вял. Пірагоўская, 17), Цэнтр. дзярж. архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыяліст. будаўніцтва БССР (ЦДАКР БССР; г. Мінск, вул. Бакуніна, 4), абласных дзярж. архівах рэспублікі і іх філіялах ёсць дакументы пра зверствы гітлераўцаў на часова акупіраванай тэр. Беларусі, матэрыялы пра аднаўленне нар. гаспадаркі рэспублікі пасля яе вызвалення ад ням.-фаш. захопнікаў. У партархівах Пермскага, Саратаўскага, Яраслаўскага і інш. абкомаў КПСС, а таксама ў дзярж. архівах гэтых абласцей захоўваюцца дакументы пра работу ва ўмовах вайны прамысловых прадпрыемстваў, навуковых і навучальных устаноў, творчых саюзаў, устаноў культуры, эвакуіраваных з БССР, пра брацкую дапамогу Беларусі працоўных РСФСР і інш. рэспублік. У Цэнтр. дзярж. архіве кінафотафонадакументаў (ЦДАКФД) БССР, Бел. дзярж. музеі гісторыі Вял. Айч. вайны, інш. гіст. і мемар. музеях рэспублікі таксама маюцца дакументы і матэрыялы па гісторыі БССР перыяду вайны.

*М. Ф. Шумейка.*

**АРХІ́ПЕНКА** Фёдар Фёдаравіч (н. 30. 10.1921, в. Аўсімавічы Бабруйскага р-на), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1944. Скончыў Адэскую ваен. школу пілотаў (1940), Ваеннапаветр. акадэмію (1951), Маскоўскі інжынерна-эканамічны ін-т (1967). У Айч. вайну з 1941 на Паўд.-Зах., Зах., Бранскім, Сталінградскім, Варонежскім, 2-м і 1-м Украінскіх франтах, лётчык-знішчальнік. Удзельнік абароны Ковеля, Роўна, Наваград Валынска, Кіева, Харкава, Варонежа, баёў пад Сталінградам, на Курскай дузе, вызвалення Украіны, Малдавіі, Польшчы, Прагі, штурму Берліна. Зрабіў 467 баявых вылетаў, правёў 102 паветр. баі, збіў асабіста 30 варожых самалётаў і 14 у групе. Да 1959 у Сав. Арміі, палкоўнік. Працуе ў нар. гаспадарцы.

**АРША́НСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з ліп. 1941 да чэрв. 1944 у Оршы і Аршанскім р-не пад кіраўніцтвам *Віцебскага падпольнага абкома КП(б)Б* і Аршанскага падп. РК КП(б)Б. У 1-й пал. ліп. 1941 парт. і камсам. органы падабралі кадры для барацьбы ў падполлі, канспіратыўныя кватэры, стварылі базы са зброяй, боепрыпасамі і харчамі на льнокамбінаце, хлебазаводзе, у лясах каля БелДРЭС, пас. Асінторф, в. Руміна. 16.7.1941 выбраны парт. цэнтр па арганізацыі і кіраўніцтву падполлем у горадзе і раёне, у які ўвайшлі Л. Н. *Анкіновіч*, А. Ц. *Скаварада*, А. Г. *Шкабарын*. Члены парт. цэнтра наладжвалі сувязі з камуністамі, давалі ім заданні па разгортванню падп. барацьбы. Явачныя кватэры ў Оршы трымалі Я. М. Канцавы, А. Г. Бяляўская, Е. К. Сухадольская, у в. Малатынь — Е. І. Шабека, на ст. Бурбін — А. М. Аўдзеева і інш. У 1941 створана больш за 20 падп. груп; усяго ў гады акупацыі ў Оршы і раёне дзейнічала каля 80 падп. груп, больш за 520 камуністаў і камсамольцаў, 300 беспартыйных патрыётаў. Першыя падп. групы пачалі дзейнічаць у ліп.— вер. 1941: на чыг. вузле — кіраўнікі К. У. Грачыха, М. П. Кузьмін, Е. М. Шамшурава, з былых рабочых ільнокамбіната — І. К. Петрачэнка, у друкарні — А. П. Нікалаеў, у лагеры ваеннапалонных — В. А. Мар-

чак, у в. Вялікае Сяло — Л. В. Кандрацьеў, у в. Высокае — П. А. Пахомчык, у в. Дзевіна — А. М. Хорань, у в. Шыбекі — А. М. Гурын, у пас. Юрцава — М. С. Сіўцоў і інш. Падпольшчыкі вялі паліт. работу, прымалі па радыё і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, рабілі дыверсіі. У жн. 1941 група І. К. Петрачэнкі ўзарвала часовы мост цераз Дняпро, з боепрыпасамі і харчамі, знішчылі больш за 400 гітлераўцаў. Пад пагрозай правалу ў лют. 1942 К. С. Заслонаў з групай падпольшчыкаў пакінуў Оршу і разгарнуў партыз. барацьбу (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 1-я імя К. С. Заслонава*). У 1942—44 на чыг. вузле група Дз. М. Бохана падарвала 13 эшалонаў, 5 паравозаў, 14 аўтамашын з гітлераўцамі, папсавала 78 паравозаў, знішчыла 236 вагонаў з ваен. маёмасцю. Група братоў Бяляўскіх двойчы выводзіла са строю кампрэсарную станцыю, сыпала пясок у буксы вагонаў і паравозаў, здабывала зброю з эшалонаў, знішчала фашыстаў. Група Ф. Я. Коўтуна здабывала для партызан боепрыпасы, перадавала сав. камандаванню ўзоры новых ням. снарадаў, замініравала састаў са снарадамі, які ўзарваўся на чыг. ст. Самалюбаўка, у выніку рух па чыгунцы спынены на 7 дзён. На лесапільным з-дзе дзейнічала група на чале з камуністам І. Ф. Голубам, падпольшчыкі здабывалі для партызан брыгад імя Заслонава і «Чэкіст» зброю, боепрыпасы, медыкаменты, пераправлялі людзей у партызаны. Група кам-

Ф. Ф. Архіпенка. А. Дз. Асадчыеў.





У Аршанскім мемарыяльным музеі Героя Савецкага Саюза К. С. Заслонава.

дыверсія машыніста В. М. Кашына на суткі спыніла рух на чыгунцы Мінск — Масква. Камсамольская падп. група на чале з Кузьміным да восені 1941 мела радыёпрыёмнік, 25 вінтовак, некалькі тысяч патронаў, 53 гранаты, ручны кулямёт. З сав. тылу прыбыла і з ліст. 1941 на Аршанскім чыг. вузле пачала дзейнічаць група К. С. *Заслонава*, якую разам з ім узначальвалі А. Я. *Андрэеў*, С. І. Чэбрыкаў, П. В. Шурмін. Яна стварыла некалькі дыверсійных груп з машыністаў і рабочых дэпо. Падпольшчыкі рабілі вугальныя міны, пусцілі пад адхон 6 варожых эшалонаў, вывелі са строю больш за 170 паравозаў, сістэму водазабеспячэння чыг. вузла, паваротны круг для паравозаў, дызель-маторную электрастанцыю, узарвалі некалькі складоў самолкі З. М. Шэвень на аэрадроме ў в. Болбасава з кастр. 1941 да крас. 1944 збірала звесткі аб колькасці самалётаў, лётным саставе ворага, размяшчэнні складоў, мініравала самалёты, узарвала 7 аўтамашын з ваен. грузамі, 5 цыстэрнаў з гаручым, рухомую радыёстанцыю, гараж з запаснымі часткамі. Аршанскія падпольшчыкі разам з партызанамі атрада «Дзядзькі Косці» ў ліп. 1943 на чыг. вузле ўзарвалі 25 цыстэрнаў і платформ з бензінам. У выніку растлумачальнай работы групы С. С. Благачыннага, Кандрацьева, М. Эрнца, І. Г. Яцко і інш. сярод салдат варожых фарміраванняў летам 1943 да партызан перайшлі з Оршы аўтарота ўласаўцаў і 24 чал. з эскадрона ў Старым Сяле. Падпольшчыкі Я. П. Ісачанка, Кандрацьеў, Л. Я. Пісараў і інш. працавалі ва ўстановах акупантаў, здабывалі звесткі пра ваен. аб'екты, загады ворага, дакументы для патрыётаў. У час падрыхтоўкі Бел. аперацыі 1944 падпольшчыкі груп С. А. Багданоўскага, Кандрацьева, Пісарава перадалі сав. камандаванню больш за 200 карт, схем і інш. звестак аб умацаваннях ворага.

У барацьбе з акупантамі загінула амаль палавіна падпольшчыкаў, у т. л. Ф. В. Агароднікава, Л. Н. Анкіновіч, А. З. Атрашкевіч, Ф. А. Аўдзесў, С. С. Благачынны, А. І., Б. І., І. І. і К. І. Бяляўскія, Н. С. і Э. А. Галушкавы, С. П. Гарбукова, І. Ф. Голуб, К. У., Л. Я. і Я. Я. Графуткі, К. У. Грачыха, М. Я. Грышанава, Я. П. Ісачанка, М. П. Камінскі, Л. В. Кандрацьеў, Г. Ц. Карабкіна, Г. Х. Каралёў, Л. І. Красноўскі, М. П. Кузьмін, П. Р. Кунцэвіч, Л. І. Мурамцава, А. П. і Е. І. Нікалаевы, І. К. Петрачэнка, А. Ц. Скаварада, І. П. Сухадольская, В. І. і І. І. Сухачэўскія, С. І. Чэбрыкаў, А. Г. Шкабарын, Павел У. і Пётр В. Шурміны, Б. І. і Г. І. Шчэрба, А. М. і З. М. Шэвень, І. Г. Яцко. Многія падпольшчыкі ўзнаг. ордэнамі і медалямі. К. С. Заслонаву прысвоена званне Героя Сав. Саюза, на чыг. ст. Орша яму пастаўлены помнік. У гонар падпольшчыкаў устаноўлены мемар. дошкі. Матэрыялы пра падполле экспануюцца ў *Аршанскім мемарыяльным музеі Героя Савецкага Саюза К. С. Заслонава*. *Л. В. Аржаева.*

**АРША́НСКІ МЕМАРЫЯ́ЛЬНЫ МУЗЕ́Й ГЕРО́Я САВЕ́ЦКАГА САЮ́ЗА К. С. ЗАСЛО́НАВА.** Адкрыты 1.8.1948. Мае 5 экспазіцыйных залаў, пл. экспазіцыі 348 м². 8250 экспанатаў, у т. л. 5850 асн. фонду (каля 300 у экспазіцыі). Дакументы, фатаграфіі і іншыя рэчавыя экспанаты расказваюць пра дзіцячыя і юнацкія гады К. С. *Заслонава*, пра яго працоўную дзейнасць у даваен. перыяд, пра падп. і дыверсійную работу на Аршанскім чыг. вузле, пра партыз. барацьбу супраць ням.-фаш. захопнікаў [прадстаўлены пісьмо Заслонава ў Нар. камісарыят шляхоў зносін ад 20.8.1941 з просьбай накіраваць яго ў тыл ворага, абсталяванне аднаго з пакояў канспіратыўнай кватэры, муляжы вугальных мін, дакументы аб прыёме ў партыю, схемы баявых дзеянняў партыз. атрада «Дзядзькі Косці» і брыгады Заслонава, вытрымкі з дзённіка, пісьмы, дакладныя запіскі, данясенні Заслонава аб выніках баявых дзеянняў атрада, фотакопіі радыёграм у ЦК КП(б)Б, схема апошняга бою Заслонава 14.11.1942 у в. Купаваць і інш.]. Экспануюцца матэрыялы аб дзейнасці Аршанскага падп. РК КП(б)Б, аб баявых справах партызан-заслонаўцаў і аршанскіх падпольшчыкаў, аб вызваленні Оршы ад фаш. захопнікаў (макеты партыз. зямлянак, абсталяванне, інструменты, медыка-

менты партыз. шпіталя, падп. газ. *«Ленинский призыв»*, зброя, адзенне, абмундзіраванне партызан, фатаграфіі землякоў — Герояў Сав. Саюза і ўдзельнікаў штурму Берліна, больш за 250 падпольшчыкаў, перадсмяротныя пісьмы і запіскі загінуўшых удзельнікаў падполля і інш.). Экспануюцца ўзнагароды Заслонава, макет яго апошняга бою (маст. А. Салаўёў), праекты помнікаў (скульпт. А. Грубе, А. Бембель, С. Селіханаў), бюст Заслонава (скульпт. С. Вакар).

*У. С. Багамазаў.*

**АРША́НСКІЯ ВАЙСКО́ВЫЯ ЗЛУЧЭ́ННІ І ЧА́СЦІ.** За вызваленне Оршы (27.6.1944) у ходзе *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944* ганаровых найменняў «Аршанскіх» загадам ВГК ад 6.7.1944 удастоены 41 злучэнне і часць 11-й гвардз., 31-й і 1-й паветр. армій 3-га Бел. фронту.

Часці і злучэнні, якім нададзены найменні «Аршанскіх»: 2-і знішчальны авіяцыйны корпус (ген.-лейт. А. С. Благавешчанскі), 173-я (палк. С. Я. Клімахін), 192-я (палк. А. М. Кавалеўскі), 220-я (палк. В. А. Палявік) і 352-я (ген.-маёр М. М. Стрыжэнка) стралк. дывізіі, 20-я арт. дывізія прарыву (ген.-маёр М. П. Белякоў), 48-я зенітная арт. дывізія (палк. П. М. Барскі). 4-я гвардз. знішчальная авіяцыйная дывізія (палк. У. А. Кітаеў), 5-я гвардз. бамбардзіровачная авіяцыйная дывізія (ген.-маёр У. А. Сандалаў), 120-я асобная (палк. Н. І. Букаў) і 213-я (палк. А. В. Цінчанка) танк. брыгады, 14-я гвардз. пушачная арт. брыгада (палк. М. Н. Хасін), 43-я знішчальная процітанк. арт. брыгада (палк. І. І. Кій), 31-я інжынерна-сапёрная брыгада (палк. М. Э. Праневіч), 63-і асобны гвардз. танк. полк прарыву (палк. І. М. Дагіліс), 926-ы (падпалк. А. М. Хухрын), 1435-ы (падпалк. К. В. Хачаў) і 1445-ы (падпалк. І. Дз. Фядотаў) самаходныя арт. палкі, 83-і гвардз. гаўбічны арт. полк (падпалк. М. А. Увараў), 570-ы карпусны арт. полк (палк. Р. Р. Бажутаў), 2-і (маёр А. П. Собалеў), 64-ы (маёр А. А. Суркоў), 65-ы (падпалк. М. Н. Зварыгін), 89-ы (маёр В. В. Уласаў), 115-ы (маёр П. А. Дранко) і 133-і (маёр А. В. Осіпаў) гвардз. знішчальныя авіяцыйныя палкі, 154-ы гвардз. штурмавы авіяцыйны полк (маёр Г. К. Старадумаў), 15-ы (падпалк. М. В. Ісакаў), 274-ы (маёр І. І. Запрагаеў), 523-і (падпалк. К. А. Пільшчыкаў) і 900-ы (падпалк. А. Ф. Хоцінскі) знішчальныя авіяцыйныя палкі, 17-ы начны бамбардзіровачны авіяцыйны полк (падпалк. М. А. Бараўкоў), 621-ы (маёр В. У. Паверкаў), 948-ы (падпалк. С. І. Грыгор'еў) і 952-і (маёр І. М. Салаўёў) штурмавыя авіяцыйныя палкі, 1-ы гвардз. асобны полк сувязі (палк. Дз. У. Ляткоў), 36-ы (падпалк. І. М. Лагуноў) і 92-і (падпалк. А. В. Маркаў) асобныя палкі сувязі, 375-ы асобны радыёдывізіён (інжынер-маёр У. І. Цюшаў), 412-ы (маёр П. М. Катаеў) і 433-і (маёр І. І. Муканс) асобныя лінейныя батальёны сувязі. Войскам, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Оршы, загадам ВГК ад 27.6.1944 аб'яўлена падзяка, у Маскве дадзены салют 20 арт. залпамі з 224 гармат.

*М. І. Камінскі.*

**АРЭ́ХАЎ** Вадзім Іванавіч (27.12.1902, Віцебск — 27.3.1957), ген.-лейт. інжынерна-тэхнічнай службы (1948). Чл. КПСС з 1927. У Чырвонай Арміі з 1924. Скончыў Ваенна-паветр. акадэмію РСЧА імя Жукоўскага (1938). У Айч. вайну з 1941 нач. упраўлення кадраў ВПС СССР. У 1949—53 нам. нач. Ваенна-паветр. інжынернай акадэміі імя Жукоўскага.

**АСАВІ́НА,** вёска на тэр. Ушацкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на ПдЗ ад в. Капылоўшчына Кубліцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 40 чал. У чэрв. 1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 40 жыхароў, у т. л. 14 дзяцей, вёску (22 двары) спалілі, маёмасць разрабавалі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1965 на месцы вёскі пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**АСАВІНО́,** вёска на тэр. Лагойскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася на тэр. Зарэцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 54 чал. 5.5.1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 25 жыхароў, у т. л. 8 дзяцей, вёску (14 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. На яе месцы ўстаноўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**АСА́ДЧЫЕЎ** Аляксандр Дзмітрыевіч (н. 25.4.1919, г. Барысаглебск Варонежскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1946), ген.-маёр авіяцыі (1975). Чл. КПСС з 1941. У Чырвонай Арміі з 1936. Скончыў Качынскую ваен. авіяцыйную школу лётчыкаў (1939), Ваенна-паветр. акадэмію (1950), Ваен. акадэмію Генштаба (1959). З 1943 ст. лейт. А. на Варонежскім, Паўн.-Каўказскім, Паўд., 4-м Укр., 1-м і 3-м Бел. франтах — камандзір эскадрыллі знішчальнага авіяпалка. Удзельнік вызвалення Багушэўска, Віцебска, Бешанковіч, Оршы, Сянно, Лепеля, Бягомля, Мінска, Маладзечна, Вілейкі, Ашмян, Смаргоні. У баях на Беларусі збіў 8 самалётаў праціўніка, знішчыў 9 цыстэрнаў з гаручым, 26 аўтамашын. Усяго за гады вайны зрабіў 230 баявых вылетаў, асабіста збіў 18 варожых самалётаў, 6 — у складзе групы. Да 1981 у Сав. Арміі.

**АСАНАЛІ́ЕЎ** Джумаш (10.5.1923, с. Атуз-Уул Ак-Суйскага р-на Іссык-Кульскай вобл. — 25.6.1944), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. ВЛКСМ. У Чырвонай Арміі з 1942, на фронце з сак. 1943. Наводчык кулямёта яфрэйтар А. 24.6.1944 адзін з першых пераправіўся цераз Зах. Дзвіну каля в. Лабейкі Сіроцінскага р-на, пры захопе плацдарма знішчыў каля 20 гітлераўцаў; адбіваў атакі ворага, пакуль не скончыліся патроны. Акружаны фашыстамі, апошняй гранатай падарваў іх і загінуў сам. Пахаваны у в. Узрэчча Бешанковіцкага р-на. Яго імем названы вуліца і завулак у Мінску.

**АСВЕ́ЙСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-ПАТРЫЯТЫ́ЧНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала са жн. 1941 да ліп. 1942 у г. п. Асвея і Асвейскім р-не. Арганізатары і кіраўнікі: У. У. *Сімацкі* (да 18.11.1941), І. К. *Захараў*. Аб'ядноўвала 9 падп. груп (каля 100 чал.): у Асвеі — кіраўнік Сімацкі, у сельсаветах Задзежскім — С. І. Жвірбля, Каханавіцкім — І. П. Петрыенка, Кісялёўскім — К. П. Яськін, Красоўскім — Р. С. Лукашонак, Малашкаўскім — М. Я. Белабародаў, Савейкаўскім — У. І. Хвяжэнка, Сенькаўскім — І. А. Марачкоўскі, Сухарукаўскім — К. І. Мядзюта.



Д. Асаналіеў.

Падпольшчыкі прымалі па радыё і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, вялі разведку, паліт. работу сярод насельніцтва, арганізоўвалі ўцёкі ваеннапалонных з лагера, у т. л. батальённага камісара В. П. *Уладзімірава* і ваенурача 2-га рангу А. Ф. Вараб'ёва, якія сталі адпаведна камісарам і нач. санслужбы партыз. брыгады. Здабывалі зброю і боепрыпасы; толькі падпольшчыкі Асвейскай, Задзежскай і Малашкаўскай груп сабралі 3 станковых, 15 ручных кулямётаў, 75 вінтовак, некалькі тыс. патронаў. Патрыёты знішчалі гітлераўцаў, вывелі са строю 14 аўтамашын, 6 танкаў, разбурылі 10 мастоў, сапсавалі тэлеграфную сувязь па шашы Асвея — Полацк, Каханавічы — Расоны, Стралкі — Зябкі, спалілі Канчанскі льнозавод, харчовы склад, нарыхтоўчы пункт па зборы малака, у крас. 1942 арганізавалі партыз. атрад (пазней брыгада імя Фрунзе).

У барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі загінулі: М. Я. Белабародаў, А. І. Літвінаў, Р. С. Лукашонак, У. У. Сімацкі, І. С. Слабада. Імем У. У. Сімацкага названы саўгас у Верхнядзвінскім р-не, вуліца ў г. п. Асвея, на якой у 1965 пастаўлены помнік падпольшчыкам.

*С. І. Жвірбля.*

**АСВЕ́Я,** гар. пасёлак у Верхнядзвінскім р-не, на беразе Асвейскага воз. За 40 км на Пн ад Верхнядзвінска, за 37 км ад чыг. ст. Верхнядзвінск на лініі Полацк — Даўгаўпілс, аўтадарогамі звязаны з Полацкам і Верхнядзвінскам. У 1924—59 цэнтр Асвейскага р-на. 12.7.1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія забілі ў А. і раёне 4391 чал. У раёне дзейнічала *Асвейскае партыйна-патрыятычнае падполле* і *Прошкаўскае камсамольска-маладзёжнае падполле*, на базе якіх у канцы крас. 1942 узнік партыз. атрад імя Фрунзе. У гар. пас. і раёне дзейнічалі Асвейскія падп. райкомы КП(б)Б (ліп.— кастр. 1941, 27.6.1942—31.12.1943) і ЛКСМБ (9.7.1942—10.1.1944), партыз. брыгады 1-я Дрысенская, «За Савецкую Беларусь» (Віцебская вобл.), імя К. К. Ракасоўскага, Расонская імя Сталіна, Асвейская імя Фрунзе (гл. адпаведныя арт.), выда-

валася падп. газ. *«Ленінскі шлях»*. У маі 1942 партызаны атрадаў імя Сяргея, імя Шчорса, імя Фрунзе і інш. ачысцілі ад гітлераўцаў амаль усю тэр. Асвейскага і Расонскага р-наў, у выніку была створана *Расонска-Асвейская партызанская зона*. 1 вер. партызаны разграмілі буйны варожы гарнізон ў Каханавічах і блакіравалі гітлераўцаў у Асвеі, ням.-фаш. гарнізон быў вымушаны 10 вер. пакінуць гар. пас. Каля А. базіравалася аператыўная група ЦК КП(б) Латвіі, якая кіравала партыз. рухам на тэр. Латвійскай ССР. У лют.— сак. 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»*, ням.-фаш. захопнікі забілі ў раёне 3,5 тыс. жыхароў, 2 тыс. чал. вывезлі на катаржныя работы ў Германію, спалілі 158 населеных пунктаў, у т. л. А. Вызвалена 17.7.1944 часцямі 22-й арміі (ген.-лейт. Г. П. Караткоў) 2-га Прыбалтыйскага фронту ва ўзаемадзеянні з партызанамі Асвейскай брыгады імя Фрунзе (камандзір М. М. Кузьмін)



Помнік Асінторфскім падпольшчыкам.

у ходзе *Рэжыцка-Дзвінскай аперацыі 1944*. У А. брацкія магілы сав. воінаў і партызан, магіла кіраўніка Асвейскага падполля У. У. Сімацкага, на якіх пастаўлены помнікі; помнікі землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, і падпольшчыкам, мемар. дошкі ў гонар вызвалення гар. пасёлка сав. воінамі і ў памяць аб першым сходзе падпольшчыкаў. *В. В. Гетаў.*

**«АСВЯЧЭ́ННЕ ХРА́МА»** («Kirchweih»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партызан і мясцовага насельніцтва ў Калінкавіцкім, Васілевіцкім і Хойніцкім р-нах (трохвугольнік Васілевічы — Калінкавічы — Хойнікі) 20—21.10.1943. З'яўлялася працягам аперацыі *«Барбара»*. Праводзілася сіламі, вылучанымі для аперацыі 46-м армейскім корпусам, у т. л. 242, 587-м ахоўнымі батальёнамі, 1-м батальёнам 612-га ахоўнага палка, асобнымі падраздзяленнямі 930-га ахоўнага палка. З партыз. атрады, у т. л. 4-ы імя Фрунзе *партызанскай брыгады 99-й Калінкавіцкай*, былі блакіраваны карнікамі ва ўрочышчы Новая Зямля. Бязлітасныя баі на працягу сутак ішлі каля в. Хобнае (Васілевіцкі р-н), Ужынец (Калінкавіцкі р-н) і Страч (Хойніцкі р-н). Партызаны вырваліся з блакады, захаваўшы сваю баяздольнасць. 22 кастр. на базе 4-га атрада імя Фрунзе была створана *партызанская брыгада 2-я Калінкавіцкая імя М. В. Фрунзе*. У раёне аперацыі гітлераўцы расстралялі больш за 70 жанчын, старых і дзяцей, спалілі в. Страч (знішчылі 9 чал.), Ужынец (25 чал.), Хобнае (39 чал.) і інш. *У. С. Пасэ.*

**АСІНТО́РФСКАЕ КАМСАМО́ЛЬСКА-МАЛАДЗЁЖНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала ў раёне прадпрыемства «Асінторф», электрастанцыі БелДРЭС і чыг. ст. Асінаўка Дубровенскага р-на. Створана 10.8.1941 б. дырэктарам торфапрадпрыемства Г. Г. Амельчанкам з маладых рабочых торфапрадпрыемства і вучняў сярэдняй школы. Аб'ядноўвала каля 50 чал. У штаб увайходзілі: С. П. Шмуглеўскі (камандзір), Я. У. Вільсоўскі (камісар), Л. К. Букацік, В. Ф. Агурцоў. Да ліст. 1942 дзейнасцю падполля кіраваў камандзір партыз. брыгады «Дзядзькі Косці» К. С. *Заслонаў*, у лютым — кастр. 1943 — камандзір 16-й Смаленскай партыз. брыгады І. Р. *Шлапакоў*. Баявыя групы былі ў г. Дуброўна, рабочых пасёлках Цэнтральным, № 1, 2, 3, 5, 6, 8, 11, у Асінторфскім лагеры сав. ваеннапалонных, вёсках Судзілавічы, Заполле, Замоські, Азёры.

Уладкаваўшыся ва ўстановы акупантаў, падпольшчыкі перадавалі партызанам звесткі пра дыслакацыю войск праціўніка, перапраўлялі за лінію фронту і да партызан сав. грамадзян, здабывалі зброю, боепрыпасы, медыкаменты, забяспечвалі партыз. разведчыкаў дакументамі, пропускамі, распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, арганізоўвалі ўцёкі сав. ваеннапалонных з лагераў, перапраўлялі іх да партызан, ратавалі сав. моладзь і ваеннапалонных ад вывазу ў Германію, псавалі тэлеф. сувязь, машыны і абсталяванне для здабычы торфу. Падпольшчыкі ўзарвалі чыг. мост, спалілі плацін помпавай станцыі, знішчылі 3 склады боепрыпасаў, ваен. маёмасці і гаручага, вывелі са строю сістэму гідраторфу, спалілі дом адпачынку фаш. афіцэраў. У кастр. 1943 уліліся ў 16-ю Смаленскую партыз. брыгаду.

У барацьбе з ням.-фаш. акупантамі загінулі: В. Ф. Агурцоў, Л. К. Букацік, Я. У. Вільсоўскі, Я. І. Гароднікаў, А. І. Жэнікаў, П. І. Клімовіч, М. Д. Малаховіч, Н. А. Нольберт, М. М. Пахоменка, Н. П. Пракапенка, І. І. і Г. І. Трашчаковы, Я. І. і М. І. Цяленчанкі, І. П. Яроменка. Многія падпольшчыкі ўзнаг. ордэнамі і медалямі. На аўтамагістралі Мінск — Масква, непадалёку ад р. п. «Асінторф», у гонар герояў падполля пастаўлены манумент (1966, скульпт. Г. І. Мурамцаў, арх. В. Занковіч, Л. Левін). *А. Л. Петрашкевіч.*

**АСІПО́ВІЦКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з ліп. 1941 да чэрв. 1944 у г. Асіповічы і Асіповіцкім р-не пад кіраўніцтвам Асіповіцкага падп. РК КП(б)Б, *Магілёўскага падпольнага абкома ЛКСМБ* (з крас. 1943) і Асіповіцкага падп. РК ЛКСМБ (з кастр. 1942). На канец 1941 аб'ядноўвала 9 падп. груп у Асіповічах і 3 у раёне. Усяго за гады акупацыі ў Асіповічах і раёне дзейнічалі 33 падп. групы, больш за 120 чал. Трымала сувязь з партыз. брыгадамі 1-й Асіповіцкай, 1-й Бабруйскай, 161-й імя Катоўскага, атрадамі імя Кірава, «Храбрацы», «Масква».

У ліп.— жн. 1941 створаны: падп. група ў паравозным дэпо ст. Асіповічы — 25 чал., кіраўнікі камуніст М. С. Шведаў, В. П. Сянюк; група на ст. Асіповічы і саставіцеляў цягнікоў — 11 чал., кіраўнікі камуніст У. М. Бандарэнка, А. А. Пазняк; група рамонтнікаў паравознага дэпо — 6 чал., А. Ф. Чайкоўскі (дзейнічала да студз. 1944); група «Заготзбожжа» і прадуктовага склада — 14 чал., М. Ф. Лемеш, В. К. Малевіч, Ф. У. Верхаводка (дзейнічала да лютага 1944); камсамольска-маладзёжная група на радыёвузле — 6 чал., Ф. А. Крыловіч, Г. Б. Сакалоўскі; падп. група чыгуначнай бальніцы — 9 чал., П. С. Казак. Групы дзейнічалі да чэрв. 1944. Узніклі таксама падп. групы ў в. Брыцалавічы — 11 чал., Г. Н. Баразна, В. І. Сташэўскі (дзейнічала да ліст. 1943); р. п. Градзянка — 6 чал., В. І. Іваноў (дзейнічала да вер. 1943), в. Ліпень — 5 чал., М. У. Кунько, М. П. Гоцін (дзейнічала да ліп. 1943). У вер. і снеж. 1941 створаны падп. групы: у гар. бальніцы — 5 чал., Е. П. Шамко, В. А. Працко (дзейнічала да вер. 1943); 2 гар. камсамольска-маладзёжныя групы — па 4 чал., Г. І. Каваль (дзейнічала да ліп. 1942); І. К. Радзівілава (дзейнічала да ліст. 1942). У сак. 1942 створана падп. група — 13 чал. на чале з І. Дз. Санковічам, на кватэры якога была ўстаноўлена рацыя. Радыстка Н. С. Зоніна (Берастоўская) перадавала разведданыя ў штаб 1-га Бел. фронту.

У канцы 1941 падпольшчыкі наладзілі сувязь з членамі Асіповіцкага РК КП(б)Б Р. Х. Голантам, М. П. Каралёвым, А. В. Шыянком. Для каардынацыі дзейнасці падполля створаны кіруючы цэнтр на чале са Шведавым. У яго склад увайшлі: У. М. Бандарэнка, А. С. Крот, Ф. А. *Крыловіч,* М. М. Няверка, А. Ф. Чайкоўскі. Вакол цэнтра групіраваліся патрыёты — камуністы, камсамольцы, беспартыйныя, несаюзная моладзь, чыгуначнікі, настаўнікі, медыцынскія работнікі, служачыя, шафёры і інш.

Перад кіраўнікамі груп была пастаўлена задача далучэння да падп. дзейнасці новых людзей, захоўвання строгай канспірацыі, правядзення дыверсій. Былі вызначаны месцы сустрэч падпольшчыкаў з прадстаўнікамі цэнтра, сувязныя. Асабліва актывізавалася работа падполля пасля *лютаўскага Пленума ЦК КП(б)Б 1943,* які ў прынятай пастанове патрабаваў «... рашуча ўзмацніць пранікненне ў гарады». Па заданню сакратара Магілёўскага падп. абкома ЛКСМБ П. Ф. *Валожына* ў крас.— жн. 1943 у Асіповічах было створана больш за 20 падп. камсамольска-маладзёжных груп, якія ўзначалілі камсамольцы Ф. А. Крыловіч, С. Ф. Важнік, А. К. Пармон, К. К. Пармон, У. І. Крукоўскі, С. В. Казакоў, М. М. Няверка, Л. С. Круглік і інш.

Падпольшчыкі прымалі па радыё і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, выдавалі лістоўкі, здабывалі для партызан разведданыя, зброю, боепрыпасы, медыкаменты, рабілі дыверсіі на чыгунцы, выводзілі са строю лакаматывы, станкі, абсталяванне. Толькі група Шведава за жн.— ліст. 1941 вывела са строю 12 паравозаў. 13.11.1942 спалілі спец. вагон з каштоўнымі прыборамі ў рамонтна-аднаўленчым саставе, у выніку чаго чыг. служба акупантаў надоўга была пазбаўлена магчымасці аператыўна ліквідоўваць вынікі ўзрываў і крушэнняў. Зімой 1943 падпольшчыкі вывезлі з ням. друкарні і перадалі партызанам шрыфт, паперу, фарбу. Патрыёты праніклі ў акупацыйны апарат, дзякуючы чаму змаглі атрымліваць бланкі дакументаў, каштоўныя звесткі, медыкаменты і перавязачны матэрыял, боепрыпасы, прадукты, паперу. Падпольшчыкі правялі шэраг смелых аперацый: Няверка магнітнымі мінамі знішчыў 3 вайсковыя эшалоны, Важнік узарваў ільнозавод, склад «Заготзбожжа», гармату ў двары фельдкамендатуры, Крот — састаў з гаручым, вывеў са строю 6 паравозаў, М. І. Патоцкі — вышку механічнай блакіроўкі на станцыі. У ноч на 30.7.1943 была здзейснена адна з буйнейшых дыверсій Вял. Айч. вайны — *Асіповіцкая дыверсія 1943.* Усяго асіповіцкія падпольшчыкі ўзарвалі 30 воінскіх эшалонаў і вывелі са строю больш за 70 паравозаў.

У барацьбе з ням.-фаш. акупантамі загінулі: З. М. Астаповіч, М. М. Астаповіч, В. М. Белаліпецкі, У. Дз. Блінкоў, К. А. Брытвіч, М. Д. Бугор, А. І. Вайцянкова, К. І. Гіліцкі, В. А. Гоман, В. В. Гурына, В. П. Ждановіч, Н. С. Зоніна, П. Т. Казлоўская, У. І. Кіржыманаў, Дз. Я. Кірпічэнка, Г. І. Коваль, Р. У. Кунько, А. В. Ліхадзіеўская, Н. П. Міжэрная, М. І. Міцановіч, М. І. Патоцкі, М. І. Побаль, І. К. Радзівілава, А. В. Русаковіч, Г. Дз. Санковіч, І. Дз. Санковіч, М. І. Санковіч, Н. М. Санковіч, В. П. Санковіч (Мальчык), С. А. Сташэўская, В. І. Сташэўскі, С. І. Хаткевіч, Ф. Н. Чайкоўскі, А. Н. Якавіцкі.

У Асіповічах імёнамі Ф. А. Крыловіча, Р. У. Кунько, П. Т. Казлоўскай названы вуліцы. *А. М. Літвін.*

**АСІПО́ВІЦКАЯ ВАЕ́ННА-АПЕРАТЫ́ЎНАЯ ГРУ́ПА,** Асіповіцкая ВАГ, Ваенна-аператыўная група пры Асіповіцкім падпольным райкоме КП(б)Б, партызанскае злучэнне, дзейнічала на акупіраванай тэр. Асіповіцкага, Бабруйскага р-наў Магілёўскай, Чэрвеньскага, Пухавіцкага р-наў Мінскай абласцей; таксама назва органа кіраўніцтва гэтым злучэннем. Уваходзіла ў *Магілёўскае партызанскае злучэнне.*

Створана ў ліп. 1943 у адпаведнасці з пастановай Магілёўскага падп. абкома КП(б)Б і загадам Магілёўскай (абласной) ВАГ на базе партыз. атрадаў 210-га, 211, 212, 213-га расфарміраванай *партызанскай брыгады 1-й Асіповіцкай.* У ліп. 1943 створаны атрады 214-ы і 215-ы, у жн.— атрад 216-ы, у ліст. 1943 уключаны асобны 309-ы атрад. Кіраўніцтва ВАГ: сакратар падп. РК КП(б)Б Р. М. *Вайцянкоў,* камандзіры М. П. *Каралёў* (ліп. 1943 — сак. 1944), І. Б. Гнядзько (сак.— май 1944, в. а.), В. В. *Глотаў* (май — ліп. 1944), нач. штаба А. А. Няхай (ліп. 1943 — студз. 1944), Ф. Дз. Лашкевіч (студз.— ліп. 1944). Камандзіру ВАГ Каралёву прысвоена званне Героя Сав. Саюза. 28.6—3.7. 1944 ВАГ (1854 партызаны) злучылася з Чырв. Арміяй. *А. Л. Манаенкаў.*

**АСІПОВІЦКАЯ ДЫВЕРСІЯ 1943,** адна з буйнейшых дыверсій падпольшчыкаў Беларусі ў гады Вял. Айчыннай вайны. Здзейснена 30.7.1943 на чыг. ст. Асіповічы ўдзельнікам *Асіповіцкага партыйна-камсамольскага падполля* камсамольцам Ф. А. *Крыловічам.* У ноч на 30.7.1943 Крыловіч 2 магнітнымі мінамі замініраваў эшалон з палівам, які прыйшоў на станцыю. Ад выбуху мін у пачатку і канцы саставу пачаўся моцны пажар, агонь перакінуўся на 3 воінскія эшалоны з авіябомбамі і снарадамі, танкамі, харчамі, якія стаялі побач. Агонь і магутныя ўзрывы бушавалі на працягу 10 гадзін. У выніку дыверсіі былі спалены 4 эшалоны праціўніка, у т. л. эшалон з новымі танкамі «тыгр», які накіроўваўся ў раён Курскай бітвы, пашкоджаны вугальны склад, блокпост, дэпо, выведзены са строю чыг. пуці. *М. У. Філімоненкаў.*

**АСІПО́ВІЧЫ,** горад, цэнтр Асіповіцкага р-на, на р. Сіняя. За 161 км на ПдЗ ад Магілёва, чыг. вузел (лініі на Мінск, Гомель, Магілёў, Слуцк), аўтадарогамі звязан з Мінскам, Бабруйскам, Шыпчыцамі. 13,7 тыс. жыхароў у 1939. 30.6.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў А. і раёне 1979 сав. грамадзян. Дзейнічалі *Асіповіцкае партыйна-камсамольскае падполле,* Асіповіцкія падп. райкомы КП(б)Б (ліп. 1941—2.7.1944) і ЛКСМБ (14.10.1942—2.7. 1944), партыз. фарміравання *Асіповіцкай ваенна-аператыўнай групы* (ВАГ), а таксама партыз. брыгады 1-я Бабруйская, 161-я імя Катоўскага, «Чырвоны Сцяг» (гл. адпаведныя арт.), якія не ўваходзілі ў яе. Выдавалася падп. газ. *«За Советскую Родину».* 30.7.1943 падпольшчыкам Ф. А. *Крыловічам* была здзейснена адна з буйнейшых у час вайны *Асіповіцкая дыверсія 1943.* Вызвалены 28.6.1944 войскамі 1-га Бел. фронту ў ходзе *Бабруйскай аперацыі 1944* воінамі 69-й (ген.-маёр І. І. Санкоўскі), 37-й гвардз. (палк. В. Л. Марозаў), 15-й (ген.-маёр К. Я. Грэбенік) стралк. дывізій 18-га стралк. корпуса, 251-га асобнага танк. палка (падпалк. Ф. С. Верлань), 295-га лёгкага самаходнага арт. палка (падпалк. П. С. Ложкін) 65-й арміі, 9-й гвардз. (ген.-маёр Б. У. Бліноў), часткай сіл 50-й (ген.-маёр Ф. І. Меншыкаў) і 45-й (ген.-маёр В. І. Лебедзеў) авіяцыйных дывізій 6-га авіяцыйнага корпуса далёкага дзеяння, а таксама партызанамі злучэння Асіповіцкай ВАГ (В. В. Глотаў). У А. брацкія магілы сав. воінаў, партызан, ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі; помнікі Вызвалення і працаўнікам камбіната хлебапрадуктаў, якія загінулі ў час Вял. Айч. вайны; мемар. дошка Крыловічу. *У. М. Якубоўскі.*

**АСКАЛЕ́НКА** Дзмітрый Яфімавіч (1920, в. Следзюкі Быхаўскага р-на — 26.9.1942), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС. У Чырвонай Арміі з 1937. Скончыў Ленінградскае авіяцыйнае вучылішча. Удзельнік сав.-фінляндскай вайны 1939—40. На фронце з чэрв. 1941. Камандзір звяна знішчальнага авіяпалка ст. лейт. А. вызначыўся пры абароне Ленінграда. Адзін з першых аваладаў тэхнікай начных палётаў, збіў 14 варожых самалётаў. Загінуў у баі. Яго імем названы школа ў Ленінградзе, вуліцы ў г. Ленінград, Быхаў; на будынку школы ў в. Следзюкі, дзе ён вучыўся, мемар. дошка.

**АСЛІКО́ЎСКІ** Мікалай Сяргеевіч (12.9. 1900, г. п. Лецічаў Хмяльніцкай вобл.—8.10.1971), ген.-лейт. (1943), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1941. У Чырвонай Арміі з 1919. Удзельнік грамадзянскай вайны. Скончыў Вышэйшую школу каманднача саставу ў Харкаве (1921),

Ваен. акадэмію Генштаба. У Айч. вайну ўдзельнічаў у Маскоўскай бітве, Бел. аперацыі 1944. Кавалерысты корпуса пад камандаваннем А. вызначыліся ў баях за вызваленне гарадоў Ліда і Гродна, аднымі з першых выйшлі да дзярж. граніцы СССР. Корпусу прысвоена ганаровае найменне «Гродзенскага». Удзельнік вызвалення Польшчы, баёў ва Усх. Прусіі. Да 1953 у Сав. Арміі. Ганаровы грамадзянін г. Ліда, дзе яго імем названа вуліца.

Дз. Я. Аскаленка. М. З. Асмыковіч. Ф. А. Асташэнка. М. В. Аўдзееў.



**АСМЫКО́ВІЧ** Мікалай Захаравіч (3.5. 1916, в. Чырвоная Слабада Акцябрскага р-на — 14.12.1976), поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПСС з 1943. У 1937—39 у Чырвонай Арміі, потым у органах НКУС у Мінску. З 1941 на Зах., Бел., 1-м Бел. франтах. Удзельнік абарончых баёў на тэр. Беларусі, Украіны, Курскай бітвы, вызвалення Беларусі, Украіны, баёў у Германіі. Камандзір гарматы ст. сяржант А. 25.12.1943 у раёне в. Шацілкі (цяпер г. Светлагорск Гомельскай вобл.) знішчыў да 30 гітлераўцаў; у баях за г. Ковель яго разлік падбіў 2 танкі; у час прарыву варожай абароны на р. Одэр знішчыў гармату, 3 кулямёты, каля 30 гітлераўцаў. Паранены А. замяніў забітага наводчыка і камандаваў разлікам да канца бою. Пасля вайны працаваў на радзіме ў саўгасе.

**АСО́БАЕ ЗЛУЧЭ́ННЕ ПАРТЫЗА́НСКІХ АТРА́ДАЎ** (АЗПА). Часовае злучэнне партыз. атрадаў. Узнікла на тэр. Баранавіцкай вобл. ў жн. 1942 па ініцыятыве камандзіраў партыз. атрадаў В. В. Шчарбіны, І. А. Жукаўца, І. П. Кузняцова і інш. і з агульнай згоды асабовага складу атрадаў. Утвораны штаб аб'яднаных атрадаў (з кастр. 1942 — АЗПА). Штаб каардынаваў разведвальныя і дыверсійныя дзеянні партыз. атрадаў на чыг. участках Мінск — Баранавічы, Мінск — Маладзечна — Ліда, Баранавічы — Ліда. Агульнае кіраўніцтва ажыццяўляў камандзір дыверсійна-разведвальнага атрада (галаўны атрад) Шчарбіна (загінуў 23.9.1942). Спачатку АЗПА аб'ядноўваў атрады: дыверсійна-разведвальны Шчарбіны (з кастр. 1942 атрад «Дзімы», гл. ў арт. *Партызанскі атрад В. В. Шчарбіны*), 125-ы імя Сталіна, імя Чапаева, 620-ы (пазней імя І. П. Кузняцова), В. З. Браева, А. Свентаржэцкага, 621-ы (пазней імя Чкалава) Баранавіцкай вобл., імя Будзённага Вілейскай вобл., «Штурм» Мінскай вобл. Пазней АЗПА пашырыў свой уплыў на ўсе атрады, якія базіраваліся ў Налібоцкай і Ліпічанскай пушчах. З ліст. 1942 большасць атрадаў, што ўваходзіла ў склад АЗПА, былі аб'яднаны ў брыгады: імя Сталіна, імя Чкалава, Ленінскую Баранавіцкай вобл., «Штурмавую» Мінскай вобл., імя Фрунзе Вілейскай вобл. (гл. адпаведныя арт.). У сувязі з пераходам у снеж. 1942 галаўнога атрада «Дзімы» ў Лагойскі р-н Мінскай вобл. АЗПА страціла свой уплыў на партыз. брыгады і асобна дзейныя атрады Баранавіцкай вобл., у ліп. 1943 было скасавана. Пазней гэтыя брыгады і атрады ўліліся ў Баранавіцкае і Вілейскае партыз. злучэнні. Камандзіру галаўнога атрада Шчарбіне прысвоена званне Герой Сав. Саюза. *А. Л. Манаенкаў.*

**АСО́БЫ БЕЛАРУ́СКІ ЗБОР,** спецыяльныя курсы для падрыхтоўкі арганізатараў партыз. руху на тэр. Беларусі. Створаны паводле рашэння ЦК КП(б)Б у крас. 1942 за 18 км ад г. Мурам Уладзімірскай вобл. Праграма навучання была распрацавана ў ЦК КП(б)Б і зацверджана Наркаматам абароны СССР. Адборам асабовага складу, фарміраваннем груп і атрадаў займаўся ЦК КП(б)Б. 1-ы выпуск адбыўся ў сярэдзіне чэрв. 1942. Было сфарміравана 12 партыз. атрадаў, у кожным 50 чал. асабовага складу (у іх ліку інструктары мінна-падрыўной справы і падрыўнікі), камандзір, камісар, нач. штаба. У пач. ліп. 1942 усе атрады праз *віцебскія «вароты»* перапраўлены на акупіраваную тэр. Беларусі. Атрады «Бясстрашны», «Быстры», «Граза», «Мсцівец» накіраваны ў Віцебскую вобл., атрады «Бура», «Гвардзеец», «Знішчальнік», «Смерць фашызму» — у Мінскую, атрады «Бальшавік», «За Радзіму», «Перамога» — у Магілёўскую, атрад «Меч» — у Гомельскую. Толькі атрад «Меч» у сувязі з вял. стратамі, якія пацярпеў у баях з ням.-фаш. акупантамі, не выйшаў у зададзены Добрушскі р-н, а застаўся на тэр. Багушэўскага р-на Віцебскай вобл. Арганізатары партыз. руху, якіх рыхтавалі на А. Б. з., перапраўляліся ў тыл ворага разам з дыверсійнымі групамі (10—15 чал.). Групы забяспечваліся баявой тэхнікай і рацыямі. Атрады і групы ў тыле ворага наладжвалі сувязь з партыз. атрадамі і падп. парт. арг-цыямі, дапамагалі ім устанавіць радыёсувязь з ЦШПР і ЦК КП(б)Б, збіралі патрыятычныя сілы, іх дзейнасць уплывала на пашырэнне партыз. руху. Многія атрады («Мсцівец», «Граза» і інш.) і арганізатарскія групы выраслі ў брыгады і буйныя атрады і ў ходзе баявых дзеянняў нанеслі ворагу вял. страты. Па няпоўных даных за год баявых дзеянняў 12 атрадаў знішчылі больш за 4 тыс. гітлераўцаў, пусцілі пад адхон 71 варожы эшалон, спалілі 6 танкаў, 4 бронемашыны, 98 аўтамашын, 23 масты, разграмілі 2 варожыя гарнізоны і інш. За час існавання А. Б. з. (да ліст. 1942) усяго было падрыхтавана 2865 чал. З іх сфарміравана і накіравана ў тыл ворага 15 атрадаў і 100 арганізатарскіх груп, агульная колькасць іх асабовага складу — 2378 чал., у т. л. 60 інструктараў мінна-падрыўной справы і 2318 падрыўнікоў. *У. М. Якубоўскі.*

**АСТА́ПЕНКА** Павел Яўменавіч (н. 13.12.1918, в. Саматэвічы Касцюковіцкага р-на), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсамольска-маладзёжнага падполля і партыз. руху на тэр. Магілёўскай вобл., сав. дыпламат. Чл. КПСС з 1944. Скончыў вышэйшую дыпламатычную школу Міністэрства замежных спраў СССР (1945). З крас. 1943 у тыле праціўніка, пам. упаўнаважанага ЦК ЛКСМБ па Магілёўскай вобл., у лют.— маі 1944 сакратар *Магілёўскага падпольнага абкома ЛКСМБ.* З 1949 у Міністэрстве замежных спраў БССР, заг. паліт. аддзела, з 1955 нам. міністра замежных спраў БССР. З 1961 пастаянны прадстаўнік БССР пры ААН у дыпламатычным рангу надзвычайнага і паўнамоцнага пасланніка. З 1964 нач. Упраўлення па замежнаму турызму пры СМ БССР. У 1970—80 нам. генеральнага дырэктара Міжнар. арг-цыі працы.

**АСТАШЭ́НКА** Фёдар Апанасавіч (19.6. 1896, в. Вял. Любшчына Віцебскага р-на — 27.10.1976), ген.-лейт. (1945), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1928. У арміі з 1915, у Чырвонай Арміі з 1918. Удзельнік грамадзянскай вайны. З 1938 служыў у БВА. З чэрв. 1941 на Зах., Бранскім, Сталінградскім, Карэльскім, Паўд.-Зах., 3-м і 2-м Украінскіх франтах. Удзельнік абароны Беларусі, вызвалення Украіны, Румыніі, Венгрыі і Чэхаславакіі. Стралк. корпус пад камандаваннем А. за 22 дні з баямі прайшоў 1185 км, выйшаў на венгер-

скую граніцу, у цяжкіх умовах фарсіраваў р. Ціса і вызваліў г. Сегед, што садзейнічала далейшаму наступленню сав. войск. Да 1956 у Сав. Арміі. Ганаровы грамадзянін г. Браціслава.

**АСТРАВЕ́Ц,** гарадскі пасёлак, цэнтр Астравецкага р-на, на р. Лоша. За 202 км на ПнУ ад Гродна, за 5 км ад чыг. ст. Гудагай на лініі Маладзечна — Вільнюс, аўтадарогай звязаны з Ашмянамі. 27.6.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія за час акупацыі знішчылі ў А. і раёне 541 мясцовага жыхара. На тэр. раёна дзейнічалі Астравецкія падп. райкомы КП(б)Б (май — 6.7.1944) і ЛКСМБ (6.5—6.7.1944), партыз. брыгады імя М. Ф. Гастэлы, імя Варашылава і імя ЦК КП(б)Б (гл. адпаведныя арт.). Вызвалены 3.7.1944 партызанамі партыз. брыгады імя ЦК КП(б)Б (камандзір М. І. Фёдараў) і ўтрымліваўся імі да 6.7.1944 — да падыходу войск 3-га Бел. фронту, якія праводзілі *Вільнюскую аперацыю 1944*. У А. помнік сав. воінам і партызанам, мемар. дошка ў гонар партыз. брыгады імя ЦК КП(б)Б. *М. І. Камінскі.*

**АСТРО́ЎСКІ** Радаслаў (1887, в. Заполле Слуцкага р-на — 1976, ЗША), паслугач ням.-фаш. акупантаў. Вучыўся ў Пецярбургскім і Дэрпцкім ун-тах. У грамадз. вайну афіцэр арміі Дзянікіна. У 1921—39 у Зах. Беларусі, настаўнік, дырэктар Віленскай бел. гімназіі (1923—36). Уваходзіў у кіраўніцтва Таварыства бел. школы, Бел. сялянска-рабочай грамады, удзельнічаў у стварэнні і кіраўніцтве «Цэнтральнага саюза культурных і гаспадарчых арганізацый» і інш. У 1928—36 арганізатар супрацоўніцтва з санацыяй, з канца 1939 уваходзіў у склад створанага ў Берліне «Беларускага камітэта самапомачы». У 1941 назначаны акупантамі начальнікам Мінскай акругі, потым — бургамістрам Смаленска, Бранска, Магілёва. Са снеж. 1943 прэзідэнт бел. «ўрада», т. зв. *«Беларускай цэнтральнай рады»* («БЦР»). Ад імя «БЦР» у сак. 1944 падпісаў загад на мабілізацыю насельніцтва Беларусі ў фаш. вайсковае фарміраванне «Беларуская краёвая абарона». Пасля вайны ў эміграцыі.

**АЎГУСТО́ЎСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ МІЖРАЙКО́М КП(б)Б.** Дзейнічаў з 21.11.1943 да 19.7.1944 пад кіраўніцтвам *Беластоцкага падпольнага абкома КП(б)Б*. Узначальваў падп. і партыз. барацьбу супраць ням.-фаш. захопнікаў, ствараў парт. арг-цыі ў партыз. атрадах і населеных пунктах, умацоўваў сувязі з імі, праводзіў паліт. і арганізатарскую работу сярод партызан, антыфаш. падполля і насельніцтва Аўгустоўскага і Граеўскага р-наў. Накіроўваў дзейнасць Аўгустоўскага і Граеўскага падп. РК ЛКСМБ. Сакратары міжрайкома: А. Д. *Трацэўскі* (да 23.5.1944), І. Я. *Лісаковіч* (з мая 1944); члены: М. З. Рагазінскі, І. Я. Сямашка (да студз. 1944). Базіраваўся ў *партызанскім атрадзе імя Г. К. Жукава.* *М. І. Эпалетаў.*

**АЎДЗЕ́ЕЎ** Міхаіл Васілевіч (22.11.1913, в. Гарадзецк Горацкага р-на — 25.6.1979), Герой Сав. Саюза (1942), ген.-маёр авіяцыі (1957). Чл. КПСС з 1938. Скончыў школу ваен. пілотаў (1934), Ваен. акадэмію Генштаба (1949). На фронце з чэрв. 1941. Камандзір эскадрыллі ВПС Чарнаморскага флоту капітан А. вызначыўся пры абароне Севастопаля, дзе ў паветр. баях збіў 6 самалётаў ворага. Удзельнічаў у абароне Перакопа, вызваленні Каўказа, Новарасійска, Севастопаля, Румыніі і Балгарыі. За час вайны зрабіў 498 баявых вылетаў, правёў 141 паветр. бой, збіў 17 самалётаў ворага. Да 1964 у Сав. Арміі.



П. І. Аўрамкаў. Дз. М. Аўсяннікаў. Ф. М. Аўхачоў. М. Я. Аўхімовіч.

**АЎРА́МКАЎ** Пракоп Іванавіч (19.11.1923, в. Пакроўка Родзінскага р-на Алтайскага краю — 22.1.1944), Герой Сав. Саюза (1944). Беларус. Чл. ВЛКСМ. На фронце з ліст. 1941, удзельнік абароны Масквы. Камандзір стралк. аддзялення сяржант А. 22.1.1944 у баі каля в. Амшары Новасакольніцкага р-на Пскоўскай вобл. закрыў сабою амбразуру варожага дзота. Пахаваны ў в. Шэйкіна Новасакольніцкага р-на ў брацкай магіле. На радзіме А. пастаўлены яго бюст.

**АЎСЯ́ННІКАЎ** Андрэй Паўлавіч (н. 1.11.1908, г. Вышні Валачок Калінінскай вобл.), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Вілейскай вобл. Чл. КПСС з 1940. Скончыў Рэспубліканскую парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1948). З 1926 рабочы, на культурна-асветнай, прафсаюзнай рабоце. З крас. 1943 кіраўнік падрыўной справы ў Барысаўска-Бягомльскай партыз. зоне, у снеж. 1943—ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады 2-й імя А. В. Суворава,* адначасова чл. Куранецкага, у студз.— ліп. 1944 сакратар Смаргонскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—68 на парт. і гаспадарчай рабоце.

**АЎСЯ́ННІКАЎ** Дзмітрый Мікітавіч (н. 29.12.1923, с. Ніжняя Любоўша Навадзеравенькаўскага р-на Арлоўскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1945), ген.-маёр авіяцыі (1978). Чл. КПСС з 1946. Скончыў Качынскую ваен. школу пілотаў (1942), Вышэйшыя афіцэрскія лётна-тактычныя курсы (1946), Ваенна-паветр. акадэмію (1955). З жн. 1943 на Паўд., 4-м Украінскім і 3-м Бел. франтах. Удзельнік вызвалення Данбаса, Крыма, Беларусі (Орша, Віцебск, Барысаў, Мінск, Гродна), Літвы, Польшчы. Вызначыўся ў баях пад Мінскам: 1.7.1944 у складзе групы штурмавікоў знішчыў 6 танкаў, 40 аўтамашын з ваен. грузам, склад з боепрыпасамі. 70 гітлераўцаў. За гады вайны зрабіў 167 баявых вылетаў, правёў 13 паветр. баёў, збіў 1 самалёт асабіста і 2 у складзе групы, знішчыў 19 танкаў, 60 аўтамашын, 25 павозак, 16 гармат і інш. Да 1981 у Сав. Арміі.

**АЎХАЧО́Ў** Фядос Міхайлавіч (н. 17.9.1909, в. Машавое Касцюковіцкага р-на), Герой Сав. Саюза (1946). Чл. КПСС з 1937. У Чырвонай Арміі з 1931. Скончыў Вышэйшую бранятанк. школу (1947). На фронце з чэрв. 1941. Удзельнік абароны Прыбалтыкі. Камандзір танк. батальёна маёр А. вызначыўся ў сак. 1945 пры вызваленні г. Гдыня: яго батальён першы ўварваўся ў порт, знішчыў 11 варожых гармат, захапіў 20 паравозаў, каля 100 вагонаў з грузам, 5 складоў, каля 350 аўтамашын, 30 матацыклаў. Пасля вайны на гаспадарчай рабоце. Танк Т-34 з батальёна А. пастаўлены як помнік у Гдыні. Імем А. названа вуліца ў г. Касцюковічы.

**АЎХІМО́ВІЧ** Мікалай Яфрэмавіч (н. 1.1.1907, г. Барысаў), партыйны і дзярж. дзеяч БССР, адзін з арганізатараў парт. падполля і партыз. руху на Беларусі. Чл. КПСС з 1926. Скончыў ВПШ пры ЦК ВКП(б) (1948). У 1926—39 на сав., камсам. і парт. рабоце. У 1940—47 сакратар ЦК КП(б)Б па кадрах. У Айч. вайну займаўся падборам і расстаноўкай парт. кадраў — кіраўнікоў падп. барацьбы і партыз. руху ў тыле ворага. Ствараў дыверсійныя групы. Для каардынацыі дзеяння партыз. фарміраванняў з Чырвонай Арміяй выязджаў на Калінінскі, Прыбалтыйскі, Цэнтр. франты. З жн. да кастр. 1943 у тыле ворага, удзельнічаў у правядзенні аперацыі *«Рэйкавая вайна»*,

аказваў дапамогу Пінскаму, Палескаму, Мінскаму абкомам КП(б)Б у наладжванні работы падп. парт. органаў і арг-цый. Пасля вайны 1-ы сакратар Гомельскага (1948—51) і Гродзенскага (1951—53) абкомаў КПБ. У 1953—56 2-і сакратар ЦК КПБ. У 1956—59 Старшыня СМ БССР. Міністр хлебапрадуктаў (1959—61), сац. забеспячэння (1961—73). У 1975—85 навуковы супрацоўнік Ін-та гісторыі партыі пры ЦК КПБ. Чл. ЦК КПСС у 1956—61. Чл. ЦК у 1940—73 і Бюро ЦК КПБ у 1953—59. Дэп. ВС СССР у 1946—62, ВС БССР у 1940—74.

**АХО́ЦІН** Радзівон Арцёмавіч (24.4.1907, в. Мары-Лугавая Звянігаўскага р-на Марыйскай АССР — 8.8.1972), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1940. Удзельнік сав.-фінляндскай вайны 1939—40. З жн. 1941 кіраўнік Межаўскай падп. арг-цыі (гл.. *Расонскае партыйна-камсамольскае падполле),* з мая 1942 узначальваў штаб па кіраўніцтву партыз. рухам у Расонскім р-не, адначасова камандзір атрада, у ліп. 1942 — ліст. 1943 камандзір *партызанскай брыгады Расонскай імя І. В. Сталіна,* адначасова чл. Расонскага падп. РК КП(б)Б. З 1945 у Сав. Арміі, у 1947—65 на сав., парт. і адм.-гаспадарчай рабоце. Яго імем названа вуліца ў г. п. Расоны.

**АХРАМЕ́ЕВА,** вёска на тэр. Гарадоцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1 км на ПдУ ад в. Лапцёўка Халамерскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыў 51 чал. У ліст. 1942, у час карнай аперацыі *«Клетка малпы»,* фашысты загубілі 20 жыхароў, вёску (17 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**АШМЯ́НСКІ РАЁННЫ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й** імя Ф. Багушэвіча. Адкрыты 16.10.1955. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, мае 316 экспанатаў, пл. 32 м². Экспанаты расказваюць пра абаронча бaі воінаў 24-й Самара-Ульянаўскай стралк. дывізіі і 21-га стралк. корпуса 13-й арміі на тэр. Ашмяншчыны, узнікненне і разгортванне падполля і партыз. руху [матэрыялы аб стварэнні падп. райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, падп. газ. *«Знамя свободы»,* фатаграфіі, дакументы, асабістыя рэчы, зброя партызан брыгады імя Гастэлы, у т. л. камандзіра В. А. *Манохіна,* сакратара падп. РК КП(б)Б У. І. *Тубеліса,* мед. інструменты партыз. шпіталя, зброя і боепрыпасы, захопленыя партызанамі ў ворага, і інш]. Прадстаўлены матэрыялы аб злачынствах ням.-фаш. захопнікаў у раёне, аб вызваленні горада і раёна воінамі 3-га гвардз. танк. корпуса і 31-й гвардз. стралк. дывізіі (зброя, асабістыя рэчы, дакументы воінаў-вызваліцеляў, у т. л. ген.-маёраў І. А. Воўчанкі і І. К. Шчарбіны). Экспануюцца матэрыялы аб воінах-земляках — удзельніках абароны Масквы, Ленінграда, Сталінграда, Берлінскай аперацыі 1945, штурму рэйхстага, партыз. барацьбы.

*В. С. Цішчанка.*

**АШМЯ́НЫ,** горад, цэнтр Ашмянскага р-на, на р. Ашмянка. За 188 км на ПнУ ад Гродна, за 17 км ад чыг. ст. Ашмяны на лініі Маладзечна — Вільнюс. Аўтадарогамі звязаны з Мінскам, Вільнюсам, Лідай, Гродна, Смаргонню. 7,7 тыс. жыхароў у 1939. У пач. вайны каля А. (на З) разведвальны батальён (маёр І. Т. Шчука) 24-й Самара-Ульянаўскай Жалезнай стралк. дывізіі вёў бой з перадавымі часцямі ням.-фаш. танк. дывізіі 3-й танк. групы ген. Гота. 26.6.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія забілі ў горадзе і раёне 1784 чал. У А. і раёне дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б (28.9.1943—8.7.1944) і ЛКСМБ (5.9.1943—8.7.1944), *партызанская брыгада імя М. Ф. Гастэлы* і асобна дзейны *партызанскі атрад «Баявы»,* выдавалася падп. газ. *«Знамя свободы».* Вызвалены 7.7.1944 воінамі 3-й гвардз. танк. брыгады (падпалк. К. А. Грыцэнка), 19-й гвардз. танк. брыгады (палк. Г. А. Пахадзееў), 2-й гвардз. мотастралк. брыгады (падпалк. К. А. Андронаў) 3-га гвардз. танк. корпуса 5-й гвардз. танк. арміі 3-га Бел. фронту ў ходзе *Вільнюскай аперацыі 1944.* У А. брацкія магілы сав. воінаў і партызан, на якіх пастаўлены помнікі; помнік барацьбітам за Сав. ўладу; мемарыяльная дошка падпольшчыку-разведчыку А. А. Камінскаму.

*В. С. Павaліхіна.*



**БАБРО́Ў** Іван Іванавіч (5.3.1905, в. Малыгіна Кашынскага р-на Калінінскай вобл.— 1.11.1943), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Брэсцкай вобл. Чл. КПСС з 1925. Скончыў Вышэйшую школу партарганізатараў пры ЦК ВКП(б) (1940). З сак. 1940 заг. аддзела, з сак. 1941 сакратар Брэсцкага абкома КП(б)Б. У пач. вайны ў Палітупраўленні Зах., потым Цэнтр. франтоў, выкладчык у ваен. школе. З жн. 1942 у аддзеле кадраў ЦШПР, з ліст. 1942 у распараджэнні БШПР. З сак. 1943 пам. упаўнаважанага БШПР па Брэсцкай вобл., з крас. 1943 сакратар *Брэсцкага падпольнага абкома КП(б)Б,* адначасова чл. штаба і нам. камандзіра *Брэсцкага партызанскага злучэння.* Загінуў у баі з ням.-фаш. захопнікамі каля в. Бялавічы Косаўскага (цяпер Івацэвіцкага) р-на, ратуючы моладзь ад вывазу на катаргу ў Германію. Яго імем названы вуліцы ў Брэсце і в. Бялавічы.

**БАБРУ́ЙСК,** горад, цэнтр Бабруйскага р-на, порт на р. Бярэзіна. За 110 км на ПдЗ ад Магілёва, вузел чыгунак (лініі на Жлобін, Асіповічы, Акцябрскі) і аўтамабільных дарог на Мінск, Магілёў, Рагачоў, Жлобін, Калінкавічы, Слуцк. У 1939 — 84,1 тыс. жыхароў. 22.6.1941 падвергнуты бамбардзіроўцы ням.-фаш. авіяцыі. 28.6.1941 сав. войскі пакінулі горад, аднак на ўсх. беразе р. Бярэзіна ў раёне Б. яшчэ трое сутак працягваліся жорсткія баі. Абарончы рубеж Свіслач — Бабруйск — Парычы ўтрымлівалі часці 47-га стралк. корпуса, 121-й стралк. дывізіі, курсанты аўтатрактарнага вучылішча (начальнік — палк. І. М. Чупрыгін), дарожна-эксплуатацыйны полк (усяго 3,7 тыс. чал.) пад агульным камандаваннем камандзіра 47-га стралк. корпуса ген.-маёра С. І. Паветкіна. Іх падтрымаў (29 ліп.) 117-ы асобны дывізіён процітанк. гармат 68-га стралк. корпуса. 29 чэрв. часткa сіл ням. 3-й і 4-й танк. дывізій Гудэрыяна фарсіравалі Бярэзіну каля вёсак Шчаткава і Даманава (на Пн і Пд ад горада), але былі выбіты з захопленых плацдармаў. 30 чэрв. штурмавы атрад сав. воінаў пераправіўся цераз Бярэзіну і заняў Бабруйскую крэпасць, але не атрымаў дапамогі і вымушаны быў пакінуць крэпасць. У раёне в. Шчаткава 30 чэрв. ням. танкі падводна фарсіравалі Бярэзіну. Праціўнік расшырыў плацдарм, пераправіў туды асн. сілы 3-й танк. дывізіі, мотапяхоту і артылерыю і пры падтрымцы авіяцыі атакаваў фланговыя часці сав. войск. Пад націскам намнога большых сіл праціўніка сав. войскі адступілі з гэтага рубяжа і 1 ліп. занялі абарону на р. Ала, пазней адышлі да Рагачова. У канцы чэрв. 1941 у раёне Б. гераічна змагаліся сав. лётчыкі авіядывізіі пад камандаваннем палк. В. Е. Несцерава. За час акупацыі ням.-фаш. захопнікі разбурылі Б., зруйнавалі ўсе прамысловыя прадпрыемствы. Б. быў пераўтвораны ў важны ваенна-апорны пункт ням.-фаш. арміі, дзе пераўкамплектоўваліся і фарміраваліся воінскія часці, дзейнічалі органы карацельна-разведвальных службаў. Акупанты стварылі ў горадзе 4 лагеры смерці з 8 філіяламі і аддзяленнямі, забілі ў горадзе і наваколлі больш за 44 тыс. мясцовых жыхароў, 40 тыс. ваеннапалонных (гл. *Бабруйскі лагер смерці),* 15 тыс. чал. вывезлі на катаргу ў Германію. Дзейнічалі: *Бабруйскае партыйна камсамольскае падполле, Бабруйскі падпольны міжрайком КП(б)Б,* падп. РК КП(б)Б (2.9.1942—30.6.1944), *Бабруйскі падпольны міжрайком ЛКСМБ, Бабруйскі падпольны гарком ЛКСМБ,* падп. РК ЛКСМБ (14.10.1942—30.6.1944); у раёне партыз. брыгады 1-я Бабруй-

ская, 12-я кав. імя Сталіна, «За Радзіму» імя А. К. Флегантава, 37-я імя Пархоменкі, партыз. полк 537-ы, асобныя партыз. атрады 100-ы, 225, 540-ы, П. А. Дудаля, «Храбрацы» (гл. адпаведныя арт.). Выдавалася падп. газ. *«Бобруйский партизан».* Вызвалены 29.6.1944 воінамі 108-й стралк. дывізіі (ген.-маёр П. А. Церамаў) 41-га стралк. корпуса, 23-й (падпалк. К. І. Бойка), 95-й (палк. А. І. Кузняцоў), 108-й (падпалк. В. Н. Баранюк) танк. брыгад, 8-й мотастралк. брыгады (падпалк. П. І. Трушкін) 9-га танк. корпуса 3-й арміі, 137-й (ген.-маёр Ф. М. Жабраў), 399-й (ген. маёр Д. В. Казакевіч) стралк. дывізій 42-га стралк. корпуса, 217-й (палк. М. П. Масонаў), 102-й (палк. М. П. Паграбняк) стралк. дывізій 29-га стралк. корпуса, 42-га танк. палка (падпалк. С. І. Цідаман), 713-га (падпалк. І. В. Васільеў), 1890-га (падпалк. С. І. Балыкоў), 1897-га (падпалк. М. П. Рыжанаў) самаходных арт. палкоў, 13-й лёгкай (палк. Я. Я. Пухаў), 59-й пушачнай (палк. А. І. Юргелевіч), 63-й гаўбічнай (палк. К. А. Папа) арт. брыгад 22-й арт. дывізіі прарыву 48-й арміі, 354-й (палк. С. А. Удовін), 356-й (ген.-маёр М. Р. Макараў) стралк. дывізій, 115-й асобнай стралк. брыгады (палк. А. М. Волкаў) 105-га стралк. корпуса, 15-й (палк. К. Г. Кажанаў), 16-й (палк. П. А. Лімарэнка), 17-й (палк. Б. У. Шульгін) гвардз. танк. брыгад, 1-й гвардз. мотастралк. брыгады (ген.-маёр Г. М. Філіпаў) 1-га гвардз. танк. корпуса, 354-га гвардз. цяжкага (маёр Р. В. Волкаў), 922-га (падпалк. А. В. Сакалоў) самаходных арт. палкоў 65-й арміі, 1-й брыгады рачных караблёў (капітан 2-га рангу С. М. Лялько) Дняпроўскай ваен. флатыліі, часцямі 8-га знішчальнага авіяцыйнага корпуса (ген.-лейт. А. С. Асіпенка) у складзе 2 авіядывізій, 6-га змешанага авіяцыйнага корпуса (палк. М. Х. Барысенка) у складзе 2 бамбардзіровачных і 1 знішчальнай авіядывізій, 3-га бамбардзіровачнага авіяцыйнага корпуса (ген.-маёр А. З. Каравацкі) у складзе 2 авіядывізій і 1-й гвардз. знішчальнай авіядывізіі (палк. У. В. Сухарабаў) 16-й паветр. арміі пры ўдзеле авіяцыі далёкага дзеяння 1-га Бел. фронту ў ходзе *Бабруйскай аперацыі 1944.* 20 воінскім часцям і злучэнням, якія вызвалілі Бабруйск, прысвоены ганаровыя найменні «Бабруйскіх» (гл. *Бабруйскія вайсковыя злучэнні і часці).* У чэрв. 1944 у горадзе 28 тыс. жыхароў. У Б. брацкія магілы сав. воінаў і партызан, падпольшчыкаў, магілы ахвяр фашызму, сав. ваеннапалонных, магіла ген.-маёра Б. С. *Бахарава,* на якіх пастаўлены помнікі; помнікі Перамогі, сав. воінам — вызваліцелям, сав. танкістам, у гонар воінскіх часцей, што вызначыліся пры вызваленні Б., у гонар вызвалення горада, у гонар Бабруйскай 108-й стралк. дывізіі, работнікам машынабудаўнічага з-да імя У. І. Леніна, работнікам фанерна-дрэваапрацоўчага камбіната, што загінулі ў барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў, Героя Сав. Саюза В. З. *Харужай;* устаноўлены мемар. дошкі падпольшчыкам, воінам і партызанам — вызваліцелям. Працуе *Бабруйскі краязнаўчы музей.*

*В. В. Гетаў.*

**БАБРУ́ЙСКА-БЕРЛІ́НСКІ МІНАМЁТНЫ ПОЛК,** гвардзейскі Чырванасцяжны, ордэнаў Кутузава III ступені, Багдана Хмяльніцкага і Аляксандра Неўскага. Сфарміраваны ў Маскве ў кастр. 1942 як 311-ы ў складзе 3 асобных дывізіёнаў рэактыўнай артылерыі. На ўзбраенні меў сістэмы БМ-13 («кацюшы»). Удзельнічаў у Сталінградскай бітве, дзе 10.1.1943 даў першы залп па ворагу. Усю вайну знаходзіўся ў складзе 65-й арміі. Падтрымліваў агнём Арлоўскую і Бранскую наступальныя аперацыі, фарсіраванне р. Сож і праследаванне ворага да Дняпра. У 1944 у складзе 1-га Бел. фронту ўдзельнічаў у *Беларускай аперацыі 1944,* вёў баі за вызваленне г. Асіповічы (28.6.1944). Вызначыўся ў час *Бабруйскай аперацыі* гэтую аперацыю полк удастоены ганаровага наймення «Бабруйскага» (5.7.1944). Удзельнічаў у вызваленні г. Баранавічы, у баях на тэр. Польшчы і ў Берлінскай аперацыі, дзе быў удастоены ганаровага наймення «Берлінскага» (11.6.1945). Камандзіры: падпалк. Г. Ф. Жураўлёў (кастр. 1942—кастр. 1943), падпалк. Ф. П. Маяцкі (кастр. 1943 — люты 1944), інжынер-палк. І. Дз. Мяркулаў (люты — кастр. 1944), падпалк. І. М. Анашкін (кастр. 1944—45).

*М. І. Камінскі.*

І. І. Баброў.



**БАБРУ́ЙСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА - КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з ліп. 1941 да чэрв. 1944 у Бабруйску і Бабруйскім р-не пад кіраўніцтвам *Магілёўскага падпольнага абкома КП(б)Б, Бабруйскага падпольнага міжрайкома КП(б)Б,* Бабруйскага падп. РК КП(б)Б. Барацьбой камсамольцаў і моладзі кіравалі адпаведныя падп. камсам. органы. Падполле налічвала 29 груп, больш за



Воіны 65-й арміі ў вызваленым Бабруйску. 1944.

*1944,* дзе актыўна дзейнічаў пры знішчэнні і ўзяцці ў палон варожай групоўкі, якая прарвалася з бабруйскага «катла» і прасоўвалася на Асіповічы. Гвардзейцы неаднойчы ўступалі ў рукапашныя схваткі з фашыстамі, якія атакоўвалі баявыя парадкі палка. За

4. Зак. 623.

500 чал., з іх 236 камуністаў і камсамольцаў. Групы ўзначальвалі: М. Р. Баглай, П. С. Вашукевіч, А. К. Калеснікаў і Я. І. Савацееў, В. С. Калеснікаў, Д. М. *Лемяшонак*, П. Ф. Маслёнак і В. І. Бутараў, С. Г. Акуліч, П. М. Сцяржанаў, І. В. Стомаў (з крас. 1942 Я. Е. Царык), А. В. Фальковіч і інш. Важную ролю ў стварэнні падполля адыгралі ваеннаслужачыя, якія трапілі ў акружэнне ці ўцяклі з палону: групы С. З. Крамнёва, В. І. *Лівенцава*, П. М. Сцяржанава, А. Н. Сумбаева, І. А. Хімічова, К. М. Якаўлева. У вер. 1941 адбылася першая канспіратыўная сустрэча прадстаўнікоў падп. груп горада, на якой прынята рашэнне аб узмацненні барацьбы з акупантамі. З мэтай каардынацыі дзеянняў выбрана аператыўная група ў складзе камуністаў Лівенцава (кіраўнік), Н. А. Боўкуна, В. М. Васільева, Крамнёва, Г. М. Кустова, Д. А. Ляпёшкіна, Маслёнка. Па ініцыятыве Лемяшонка створаны к-т КП(б)Б, у які ўвайшлі: Лемяшонак (сакратар), Г. С. Бекіш, А. І. Чарноў. Да кастр. 1941 к-т ахапіў сваім уплывам шматлікія гар. і сельскія групы. Да канца 1941 дзейнічала больш за 20 падп. груп, якія аб'ядноўвалі каля 350 чал. Падп. групы дзейнічалі на ст. Мошны, у р. п. Глуша, вёсках Брожа, Варатынь, Васілеўка, Каралёва Слабада, Гарбацэвічы, Осава, Казакова, Фартуны, Кругланіва, Цялуша, Чыкілі, Шчаткава, Панюшкавічы і інш.

Члены групы Маслёнка і Бутарава, якая дзейнічала на лесакамбінаце, прымалі па радыёпрыёмніках і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, выводзілі са строю абсталяванне на камбінаце, хлебазаводзе, электрастанцыі. Група Лівенцава вяла паліт. работу, здабывала і сама вырабляла бланкі дакументаў (за жн.— снеж. 1941 вырабіла больш за 200 пашпартоў), пячаткі, мела радыёпрыёмнік, фоталабараторыю. Група Акуліча — Стомава, якая дзейнічала ў раёне Бярэзінскага фарштата, рабіла дыверсіі на суднарамонтным і шпаларэзным з-дах, вяла прапаганду ў варожых фарміраваннях, перадавала звесткі аб аэрадроме ворага і яго гарнізоне ў Бабруйску, арганізоўвала ўцёкі ваеннапалонных з лагера смерці. Група Крамнёва рабіла дыверсіі ў казармах акупантаў, на радыёвузле, выводзіла са строю сістэму водазабеспячэння. Група Вашукевіча праводзіла работу па распрапагандаванню варожых фарміраванняў, летам 1943 устанавіла сувязь з адным з такіх падраздзяленняў і пераправіла яго ў партыз. атрад. Група А. К. Калеснікава і Савацеева, якая дзейнічала на біржы працы, уладкоўвала патрэбных людзей ва ўстановы акупантаў, ратавала насельніцтва ад вывазу ў Германію, забяспечвала падпольшчыкаў неабходнымі дакументамі. Уладкаваўшыся на работу ў ням. друкарню, Сцяржанаў і В. Г. Цягуноў друкавалі лістоўкі, бланкі пропускаў, прадуктовыя карткі. Пазней з друкарні ўдалося вынесці паперу, шрыфт, вярстатку і інш. абсталяванне, якое ў студз. 1942 было дастаўлена ў лес, дзе Лівенцаў і Крамнёў наладзілі выпуск лістовак і адозваў (надрукавана 55 лістовак тыражом 25,5 тыс. экз.), з ліст. 1942 там друкавалася падп. газ. *«Бобруйский партизан»*. Група Баглая рабіла дыверсіі на прамысловых прадпрыемствах горада і наваколля. За першыя 5 месяцаў акупацыі яна вывела са строю 11 электраматораў і шмат дэфіцытных прыбораў. Падпольшчыкі в. Брожа (кіраўнік В. Н. Шчэрбіч) у час рамонту ваен. тэхнікі ворага псавалі яе, у студз. 1942 вывелі са строю абсталяванне майстэрні. Падпольшчыкі р. п. Глуша (кіраўнік І. Р. Гарнастай) вызвалілі з лагера смерці ваеннапалонных, захапілі зброю, боепрыпасы, міны, рацыю, здабывалі і перадавалі партызанам медыкаменты, харч, двойчы выводзілі са строю шклозавод «Камінтэрн». Падпольшчыкі в. Осава (кіраўнік Лемяшонак) вялі паліт. работу сярод насельніцтва, распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі, накіроўвалі людзей у партыз. атрады, збіралі для партызан харч. Падпольшчыкі в. Цялуша (кіраўнік А. В. Руднеў) распаўсюджвалі лістоўкі, падбіралі людзей для партыз. атрадаў, пераправілі партызанам узрывучатку і харчы, выводзілі са строю кабель сувязі ўздоўж шашы Бабруйск — Жлобін, распрапагандавалі 70 салдат з варожага фарміравання, якія ў 1943 са зброяй перайшлі да партызан. Такую ж падп. работу вяла група вёсак Шчаткава і Панюшкавічы (кіраўнік Ал. А. Маеўскі). Група в. Казакова (кіраўнік А. І. Калпакоў) накіравала да партызан больш за 200 чал., перадавала ім зброю, боепрыпасы, медыкаменты. Калпакоў з жонкай і дзецьмі восенню 1941 вынеслі са склада вайсковай часці праціўніка 35 вінтовак, 2 аўтаматы, некалькі скрынак патронаў. Усё гэта было перададзена партызанам. У снеж. 1941 фашыстам удалося раскрыць і разграміць некалькі падп. груп. У студз. 1942 пад пагрозай правалу значная частка падпольшчыкаў пайшла да партызан, у т. л. члены к-та. Больш за 150 падпольшчыкаў у снеж. 1941 — студз. 1942 арганізавалі 752-і партыз. атрад, на базе якога створана *партызанская брыгада 1 я Бабруйская*. Кіраўніцтва падп. барацьбой у горадзе ўзначаліў Бабруйскі к-т партыз.



**Помнік на брацкай магіле падпольшчыкаў у Бабруйску.**



руху (Лемяшонак, Г. Н. Акуліч, Бутараў, А. В. Кодач, М. І. Семісалаў).

Некаторыя падп. групы былі звязаны непасрэдна са штабамі часцей Чырвонай Арміі. У жн. 1942 сав. камандаванне ўстанавіла сувязь з групай Баглая, група стала разведвальнай. У крас. 1943 у групу ўключана радыстка А. М. Нікалайчанкава. Каб мець магчымасць назіраць за варожымі перавозкамі па чыгунцы, падпольшчык Н. Г. Гурыновіч адкрыў каля чыг. пераезда майстэрню па рамонту металічных вырабаў. Сабраныя звесткі адразу паведамлялі сав. камандаванню. Група Д. Х. Маркава рэгулярна забяспечвала камандаванне Чырвонай Арміі звесткамі аб дыслакацыі, узбраенні, колькасці часцей праціўніка. Падпольшчыкі гэтай групы ўзарвалі ням. палявую радыёстанцыю, паравы кацёл на гідролізным з-дзе, вывелі са строю 2 электраматоры і знішчылі склад з бензінам на лесакамбінаце, некалькі аўтамашын. Баявая дзейнасць падполля асабліва ўзмацнілася з 2-й палавіны 1943, калі сав. войскі разгарнулі наступленне на тэр. Беларусі. Летам 1943 у Бабруйску створаны новыя падп. арг-цыі: на чыгуначным вузле, электра- і тэлефоннай станцыях. Адважна дзейнічала разведвальна-дыверсійная група Х. С. Прыбыля. Восенню 1943 яе ўдзельнікі ўзарвалі воінскі эшалон з жывой сілай і ваен. маёмасцю, цэментны з-д, падпалілі казармы, 2 варожыя аўтамашыны. У 1943—44 на тэр. Бабруйскага р-на паспяхова дзейнічала разведвальна-дыверсійная група І. М. Стэльмаха і І. А. Лебедзева. Каштоўныя звесткі наступалі ад І. К. Юхнаўца, А. М. Манкевіч, М. В. Шэх, Н. К. Якаўлевай, М. І. Беланогавай і інш.

У барацьбе з акупантамі загінулі: А. А. Агееў, Б. С. Акуліч, С. С. Багінян, В. І. Бутараў, Дз. П. Вараб'ёў, І. Д. Вярбіцкі, А. І. Вяржбіцкі, Д. Р. і К. Я. Гарадзецкія, Г. М. Гаўраў, У. М. Гетман, М. В. Гудзей, Р. І. Дзыгун, Р. Я. Дзярабін, В. Дзяцел, А. А. Іваноў, М. А. Казаранц, А. К. і В. В. Калеснікавы, К. П., А. М. і М. М. Клімашонкі, А. В. Кодач, К. М. Лемяшонак, Ал. А. і Ан. А. Маеўскія, Н. А. Маркоўскі, А. А. і С. Л. Марозы, А. І. Міерына, Б. Е. Пінчук, А. І. і Я. І. Савацеевы, Г. І. Сакалова, Г. Ф. Спірыдонава, В. І. і М. Д. Стомавы, Л. В. Ткачук, А. А. Траяноўскі, І. А. Цвірка, А. Ц. Чыгір. 223 падпольшчыкі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі. В. І. Лівенцаву і У. А. *Парахневічу* прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У гонар падпольшчыкаў у Бабруйску ўстаноўлены помнік на брацкай магіле падпольшчыкаў і партызан, у в. Брожа, Глуша, Осава, Цялуша — мемар. дошкі, у в. Шчаткава — мемар. пліта.

*А. Б. Рогаў.*

**БАБРУ́ЙСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1944,** наступальная аперацыя войск правага крыла 1-га Бел. фронту (ген. арміі К. К. Ракасоўскі) 24—29.6.1944, састаўная частка *Беларускай аперацыі 1944.*

У Б. а. ўдзельнічалі 3-я, 28, 48, 65-я арміі (ген.-лейтэнанты А. В. Гарбатаў, А. А. Лучынскі, П. Л. Раманенка, П. І. Батаў), конна-механізаваная група (ген.-лейт. І. А. Пліеў), 16-я паветр. армія (ген.-палк. авіяцыі С. І. Рудэнка), Дняпроўская ваен. флатылія (капітан 1-га рангу В. В. Грыгор'еў), злучэнні авіяцыі далёкага дзеяння.

Задача аперацыі — ударамі з раёна Рагачова ў напрамку Бабруйск — Асіповічы (3-я і 48-я арміі) і з раёна на Пд ад Парыч у напрамку Старыя Дарогі — Слуцк (65-я, 28-я арміі і конна-механізаваная група) акружыць і разграміць бабруйскую групоўку ворага; развіць наступленне цераз Асіповічы — Пухавічы на Мінск і цераз Слуцк на Баранавічы. Сав. войскам процістаялі 9-я ням. армія (10 пяхотных дывізій) і 2 дывізіі 4-й арміі. Праціўнік стварыў на Бабруйскім напрамку моцную, глыбока эшаланіраваную абарону, у т. л. на р. Дабрыца, Дабасна, Ала, Бярэзіна і вакол Бабруйска.

24 чэрв. войскі 65-й і 28-й армій прарвалі абарону праціўніка. Уведзены ў прарыў 1-ы гвардз. танкавы корпус (ген.-маёр М. Ф. Паноў) паглыбіўся ў напрамку Бабруйска да 20 км і выйшаў у тыл парыцкай групоўкі ворага; 25 чэрв. ў наступленне ўведзена конна-механізаваная група, якая 26 чэрв. выйшла ў раёне Глуска да р. Пціч і месцамі фарсіравала яе. 26 чэрв. 65-я армія выйшла да р. Бярэзіна на Пд ад Бабруйска, перарэзала шашу Бабруйск — Слуцк, 28-я армія 27 чэрв. вызваліла Глуск і цэнтр Акцябрскага р-на в. Карпілаўка (гл. ў арт. *Акцябрскі).* У ноч на 27 чэрв. 1-ы гвардз. танк. корпус перарэзаў шляхі на З і ПдЗ ад Бабруйска. Наступленне 3-й і 48-й армій развівалася з вял. цяжкасцямі. Толькі пасля магутных бомбавых удараў 16-й паветр. арміі і ўводу буйных танк. сіл абарона немцаў была зломлена. 26 чэрв. часці 48-й арміі вызвалілі Жлобін. Уведзены ў наступленне з раёна на Пн ад Рагачова 9-ы танк. корпус (ген.-маёр Б. С. Бахараў) абышоў Бабруйск з Пн і 27 чэрв. злучыўся з 1-м гвардз. танк. корпусам, закончыўшы акружэнне 40-тысячнай групоўкі ворага ў раёне на ПдУ ад Бабруйска і ў горадзе. Утварыўся т. зв. *бабруйскі «кацёл»,* ліквідаваны 28 чэрв. сіламі армій 48-й, 65-й і 16-й паветранай. Гал. сілы наступалі ў напрамку на Мінск і Слуцк. 28 чэрв. вызвалены Асіповічы і Старыя Дарогі, 29 чэрв. — Бабруйск. Дняпроўская ваен. флатылія падтрымлівала сухапутныя войскі агнём, перапраўляла байцоў і тэхніку цераз Бярэзіну. Сав. войскам памагалі партызаны: захоплівалі пераправы, вялі разведку ў тыле ворага, удзельнічалі ў баях. У ходзе аперацыі разбіты гал. сілы 9-й ням. арміі, ліквідавана бабруйская групоўка ворага (знішчана каля 50 тыс., узята ў палон больш за 23 тыс. ням. салдат і афіцэраў, падбіта і захоплена 366 танкаў, больш за 5 тыс. гармат і мінамётаў, каля 16 тыс. аўтамашын і інш.); стварыліся спрыяльныя ўмовы для наступлення на Мінск і Баранавічы. 20 вайсковым часцям і злучэнням нададзены ганаровыя найменні «Бабруйскіх», 3 — «Жлобінскіх».

*Р. М. Шавяла.*



Савецкія воіны пераадольваюць лясіста-балоцістую мясцовасць у раёне Бабруйска.



Разбітая тэхніка ворага ў раёне Бабруйска. Чэрвень 1944.

**БАБРУ́ЙСКІ «КАЦЁЛ»,** акружэнне пад Бабруйскам войскамі правага крыла 1-га Бел. фронту ў ходзе *Бабруйскай аперацыі 1944* 6 дывізій 9-й ням. арміі. Савецкія войскі 3-й і 48-й армій, якія наступалі з раёна Рагачова, і войскі 65-й арміі, што насту-

палі з раёна на Пд ад Парыч, 27.6.1944 злучыліся на Пн ад Бабруйска (1-ы гвардз. і 9-ы танк. карпусы), замкнулі акружэнне 40-тысячнай групоўкі ворага на ПдУ ад Бабруйска і ў горадзе.

Ліквідацыю трапіўшай у «кацёл» групоўкі ням. войск праводзілі 48-я і 65-я арміі. Важнейшая асаблівасць праведзенай аперацыі — масіраванае выкарыстанне авіяцыі фронту, 526 самалётаў 16-й паветр. арміі на працягу 1,5 гадзін групамі па 25—30 самалётаў наносілі ўдары па ворагу, якія рыхтаваў прарыў, прычынілі яму значныя страты, групоўка праціўніка была рассеяна. 28 чэрв. сав. войскі закончылі ліквідацыю акружанага праціўніка. З раёна Бабруйска пяцітысячнай групоўцы ворага ўдалося прарвацца ў напрамку Асіповіч, але і яна была ўзята ў палон. 29 чэрв. вызвалены Бабруйск.

**БАБРУ́ЙСКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны 30.6.1924. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, мае 205 экспанатаў асн. фонду, пл. 75 м². На стэндах прадстаўлены карта-схема абарончых баёў 47-га стралк. корпуса, дакументы і фатаграфіі абаронцаў горада і раёна ў 1941. Матэрыялы аб разгортванні падполля і партыз. руху ў раёне: партыз. зброя, падп. газеты *«Бобруйский партизан»*, «За Советскую Родину», *«Кировец»* і інш., лістоўкі, абсталяванне друкарні, сцяг 537-га палка 9-й Кіраўскай партыз. брыгады, дакументы і фатаграфіі актыўных удзельнікаў падполля і кіраўнікоў партыз. руху; расказваецца пра злачынствы ням.-фаш. захопнікаў у раёне, *Бабруйскім лагеры смерці.* Матэрыялы аб вызваленні горада і раёна, вайсковых часцях і злучэннях, якія атрымалі ганаровыя найменні «Бабруйскіх», аб удзеле землякоў на франтах Вял. Айч. вайны: карта-схема *Бабруйскай аперацыі 1944*, сцяг 108-й Бабруйскай стралк. дывізіі, дакументы, асабістыя рэчы, фатаграфіі военачальнікаў і воінаў-вызваліцеляў, у т. л. камандзіра 9-га Бабруйскага танк. корпуса ген.-маёра Б. С. *Бахарава,* дыярамы «Бой каля станцыі Татарка», «Ліквідацыя бабруйскага «катла». *І. С. Браслаўскі.*

**БАБРУ́ЙСКІ ЛА́ГЕР СМЕ́РЦІ** (№ 131). Створаны ням.-фаш. захопнікамі ў акупіраваным Бабруйску на тэр. Бабруйскай крэпасці летам 1941 для масавай загубы мірных сав. грамадзян і ваеннапалонных. Пад канец года ў ім было каля 60 тыс. вязняў, з іх больш за 20 тыс. трымалі пад адкрытым небам. З-за голаду, холаду, антысан. умоў успыхнула эпідэмія сыпнога тыфу. Для пашырэння яе гітлераўцы змяшчалі здаровых ваеннапалонных у бараку з хворымі. У кастр.—ліст. 1941 за суткі памірала 600—800, зімой — да 1 тыс. чал. Цяжкахворых фашысты закопвалі разам з мёртвымі.

7.11.1941 па загаду прадстаўніка вярх. камандавання германскай арміі палк. Штурма камендант лагера падпалк. Рэдэр і яго нам. капітан Лангут падпалілі адзін з баракаў. Вязняў, якія выбягалі з падпаленага будынка, расстрэльвалі з кулямётаў. У выніку згарэла і расстраляна больш за 4 тыс. чал. У снеж. 1941 пад выглядам адпраўкі ў Мінск 3200 паўраздзетых палонных пагрузілі ў таварныя вагоны і на адкрытыя платформы. Усе яны па дарозе замерзлі.



Гітлераўцы, узятыя ў палон пад Бабруйскам. Чэрвень 1944.

Да жн. 1942 у лагеры загублена каля 40 тыс. чал. Да студз. 1944 загублены ўсе ваеннапалонныя. Лагер увесь час папаўняўся цывільнымі вязнямі. 5 тыс. цывільных вязняў вызваліла Чырвоная Армія. На магіле ахвяр фаш. тэрору пастаўлены помнік.

**БАБРУ́ЙСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ ГАРКО́М ЛКСМБ.** Створаны *Магілёўскім падпольным абкомам ЛКСМБ* і дзейнічаў з 10.6.1943 да 2.1.1944 пад яго і Бабруйскага падп. РК КП(б)Б кіраўніцтвам. Узначальваў падп. камсамольскія і маладзёжныя групы г. Бабруйска. Сакратары Б. П. Баркоўскі, В. Л. Кучугура. Асн. база знаходзілася ў Бабруйскім р-не ў *партызанскай брыгадзе 1-й Бабруйскай.*

Да стварэння падп. гаркома барацьбой камсамольцаў і моладзі горада супраць акупантаў кіравалі камуністы і камсамольцы падп. груп В. І. *Лівенцава,* А. К. Калеснікава, П. Ф. Масленка, А. В. Мосіна, А. Ф. Сарафанава, І. А. Хімічова, а таксама палітработнікі партыз. атрада Лівенцава, са жн. 1942— Магілёўскі падп. абком ЛКСМБ, сакратар Бабруйскага РК ЛКСМБ М. І. Семісалаў. *Р. М. Шавяла.*

**БАБРУ́ЙСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ МІЖРАЙКО́М КП(б)Б.** Дзейнічаў з 11.8 да 4.11.1942. Створаны ЦК КП(б)Б для кіраўніцтва падп. парт. арг-цыямі Асіповіцкага, Бабруйскага, Бярэзінскага, Кіраўскага і Клічаўскага р-наў, разгортвання партыз. руху і актывізацыі баявых дзеянняў партыз. атрадаў. Сакратар міжрайкома І. М. *Кардовіч,* члены: Я. І. *Заяц,* І. А. *Матыль,* К. М. *Якаўлеў.* Міжрайком стварыў Бабруйскі і Кіраўскі, зацвердзіў Асіповіцкі і Бярэзінскі падп. райкомы КП(б)Б [гл. *Раённыя падпольныя камітэты КП(б)Б*], пасля чаго спыніў сваю дзейнасць. *А. М. Літвін.*

**БАБРУ́ЙСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ МІЖРАЙКО́М ЛКСМБ.** Створаны *Цэнтральным Камітэтам ЛКСМБ.* Дзейнічаў з 24.8.1942 да 1.6.1943 пад кіраўніцтвам *Магілёўскага падпольнага абкома ЛКСМБ* і *Бабруйскага падпольнага міжрайкома КП(б)Б* (да 4.11.1942). Кіраваў Асіповіцкім, Бабруйскім, Клічаўскім падп. райкомамі ЛКСМБ Магілёўскай вобл. і Глускім падп. РК ЛКСМБ Палескай вобл., камсамольскімі і маладзёжнымі арг-цыямі і групамі Бабруйска. Сакратары: І. А. *Матыль,* П. Ф. *Валожын* (з 1.3.1943. чл. ЦК ЛКСМБ); члены: В. С. *Даўжанкова,* А. С. Дайнека (да 15.3.1943), А. П. Касцевіч, В. А. Барабашкіна (з 1.12.1942). Асн. база знаходзілася ў Клічаўскім р-не. *Р. М. Шавяла.*

**БАБРУ́ЙСКІЯ ВАЙСКО́ВЫЯ ЗЛУЧЭ́ННІ І ЧА́СЦІ.** За вызваленне Бабруйска (29.6.1944) у ходзе *Бабруйскай аперацыі 1944* ганаровыя найменні «Бабруйскіх» загадам ВГК ад 5.7.1944 прысвоены 20 часцям і злучэнням 3-й, 48, 65, 16-й паветр. армій і Дняпроўскай ваен. флатыліі 1-га Бел. фронту.

Часці і злучэнні, якім нададзены найменні «Бабруйскіх»: 9-ы танк. корпус

(ген.-маёр Б. С. Бахараў), 3-і бамбардзіровачны авіяцыйны корпус (ген.-маёр А. З. Каравацкі), 8-ы знішчальны авіяцыйны корпус (ген.-лейт. А. С. Асіпенка), 17-я (падпалк. А. П. Лукін), 108-я (ген.-маёр П. А. Церамаў), 137-я (ген.-маёр Ф. М. Жабрэў), 250-я (ген.-маёр І. В. Мохін), 348-я (ген.-маёр М. А. Нікіцін) стралк. дывізіі, 8-я мотастралковая брыгада (падпалк. П. І. Трушкін), 115-я асобная стралк. брыгада (палк. А. М. Волкаў), 95-я (палк. А. І. Кузняцоў) і 108-я (падпалк. В. Н. Баранюк) танк. брыгады, 1-я брыгада рачных караблёў (капітан 2-га рангу С. М. Лялько), 42-і асобны танк. полк (падпалк. С. І. Тыдаман), 922-і (падпалк. А. В. Сакалоў) і 1897-ы (падпалк. М. П. Рыжанаў) самаходныя арт. палкі, 311-ы (палк. І. Дз. Меркулаў) і 313-ы (падпалк. Дз. Н. Арлоў) гвардз. мінамётныя палкі, 66-ы асобны полк сувязі (падпалк. Б. П. Жукаў), 2-і гвардз. дывізіён бранякатэраў (капітан 3-га рангу А. І. Пяскоў). Войскам, якія ўдзельнічалі ў баях за вызваленне Бабруйска, загадам ВГК ад 29.6.1944 аб'яўлена падзяка, у Маскве дадзены салют 20 арт. залпамі з 224 гармат. *М. І. Камінскі.*

**БАБРУ́К** Сяргей Антонавіч (15.2.1901, в. Шубічы Пружанскага р-на — 18.3. 1962), Герой Сав. Саюза (1944), ген.-лейт. (1955). Чл. КПСС з 1929. У Чырвонай Арміі з 1920. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1940). На фронце з чэрв. 1941. Вызначыўся пры ліквідацыі нікапальскай групоўкі ворага. Дывізія пад яго камандаваннем з 31.1 да 12.2.1944 прарвала абарону гітлераўцаў, знішчыла каля 2100 варожых салдат і афіцэраў, шмат баявой тэхнікі, у т. л. 9 танкаў і самаходных гармат, захапіла 14 складоў з боепрыпасамі, гаручым і прадуктамі. Да 1960 у Сав. Арміі. Яго імем названа вуліца ў г. Пружаны.

**БАБУ́НІЦКІ БОЙ 1943** паміж партызанамі атрада «Балотнікава» (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 130-я Петрыкаўская)* і ням.-фаш. карнікамі каля в. Бабунічы Петрыкаўскага р-на 26—27.5.1943. Карны атрад (300 салдат) напаў на в. Бабунічы. Партыз. застава (20 чал.), якая там знаходзілася, прыняла бой, але вымушана была адступіць. 26.5.1943 карнікі захапілі вёску і спалілі яе. На наступны дзень акупанты накіраваліся ў в. Мяхедавічы, каб спаліць яе і знішчыць партызан. Байцы атрада «Балотнікава» (85 чал., камандзір І. Н. Глушко) за 700 м ад в. Бабунічы на ўзлеску зрабілі засаду і флангавым і перакрыжаваным франтальным агнём разграмілі карнікаў. Гітлераўцы страцілі 56 салдат і афіцэраў забітымі і паранепымі, у партызан 1 чал. забіты, 2 паранены. *У. С. Пасэ.*

**БА́БЫ,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3,5 км на ПдЗ ад в. Гісялёва Сенькаўскага сельсавета. У лют. 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»,* фашысты загубілі 20 жыхароў, вёску (12 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1982 на месцы вёскі пастаўлены мемарыяльны знак.

**БАГАЛЮ́БАЎ** Аляксандр Мікалаевіч (29.5.1900, г. Чэбаксары — 28.2. 1956), ген.-палк. (1945), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1932. У Чырвонай Арміі з 1918. Удзельнік грамадзянскай вайны. Скончыў Ваен. акадэміі імя Фрунзе (1931), Генштаба (1938). На фронце з 1941. З мая 1944 нач. штаба 2-га Бел. фронту. Дзякуючы добра распрацаванаму плану дзеянняў, умеламу кіраўніцтву штабамі злучэнняў войскі фронту ў *Беларускай аперацыі 1944* паспяхова выканалі пастаўленую перад імі задачу па разгрому праціўніка на магілёўскім напрамку. Пасля вайны на адказных пасадах у Сав. Арміі.



С. А. Бабрук. С. Н. Багарад. Р. Б. Багданаў. С. І. Багданаў.

**БАГАРА́Д** Самуіл Нахманавіч (н. 17.8. 1907, Віцебск), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1930. Скончыў Ленінградскі марскі тэхнікум (1935). Служыў на флоце. Камандзір падводнай лодкі капітан 3-га рангу Б. вызначыўся зімой 1944—45 у баях за Прыбалтыку. Калі вораг на сушы быў блакіраваны сав. войскамі, гітлераўскае камандаванне спрабавала выратаваць свае часці марскім шляхам. Экіпажу Шч-310 была пастаўлена задача не даць прайсці транспартам праціўніка. Падводная лодка на чале з Б. патапіла 7 варожых караблёў водазмяшчэннем 40 тыс. т. Усяго экіпаж патапіў 1 ваен. буксір і 9 транспартаў праціўніка. Да 1961 у ВМФ.

**БАГДА́НАЎ** Рыгор Багданавіч (4.2. 1910, в. Марцюпы Гарадоцкага р-на — 1.10.1943), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1942. У Чырвонай Арміі з 1932. З жн. 1941 на Зах., Цэнтр., Варонежскім франтах. Камандзір батальёна ст. лейт. Б. вызначыўся ў вер. 1943 у баях на Пн ад Кіева. Праследуючы ворага, батальён з ходу фарсіраваў Дзясну і выйшаў да Дняпра, пад агнём праціўніка фарсіраваў раку, захапіў плацдарм, заняў 2 населеныя пункты і, адбіўшы 10 варожых контратак, утрымліваў іх да падыходу асн. сіл палка. Памёр ад ран. Пахаваны ў с. Жукін Кіева-Святошынскага р-на Кіеўскай вобл.

**БАГДА́НАЎ** Сямён Ільіч (10.9.1894, Пецярбург — 12.3.1960), маршал бранятанк. войск (1945), двойчы Герой Сав. Саюза (1944, 1945). Чл. КПСС з 1942. У арміі з 1915, у Чырвонай Арміі з 1918. Удзельнік 1-й сусветнай і грамадзянскай войнаў. Скончыў Вышэйшую ваенна-педагагічную школу (1923), акадэмічныя курсы ўдасканалення пры Ваен. акадэміі механізацыі і матарызацыі (1936). У Айч. вайну камандзір танк. дывізіі, якая ў 1941 вяла баі на тэр. Беларусі; нам. камандуючага арміяй па танк. войсках, камандзір танк. і механізаваных карпусоў, камандуючы танк. арміяй. Удзельнік Маскоўскай бітвы, Корсунь-Шаўчэнкаўскай, Беларускай, Вісла-Одэрскай, Усх.-Памеранскай і Берлінскай аперацый. Пасля вайны на адказных пасадах у Сав. Арміі. Дэп. ВС СССР у 1946—58. Яго імем названа вуліца ў г. Пружаны.

**БАГДАНО́ВІЧ** Віктар Францавіч (29.2. 1904, г. Жыткавічы — 16.10.1978), ген.-лейт. (1949). Чл. КПСС з 1925. У Чырвонай Арміі з 1922. Скончыў Ваен. акадэмію Генштаба (1943). Удзельнік сав.-фінляндскай вайны 1939—40. З 1941 на Паўн.-Зах., Волхаўскім, Ленінградскім, Сцяпным, Паўд.-Зах. і Украінскім франтах: нач. штаба корпуса, арміі. З крас. 1944 нам. камандуючага войскамі Паўд.-Уральскай, Туркестанскай ваен. акруг. У 1956—61 у апараце Мін-ва абароны СССР.

**БАГРАМЯ́Н** Іван Хрыстафоравіч (2.12. 1897, г. Кіравабад Азербайджанскай ССР — 21. 9.1982). Двойчы Герой Сав. Саюза (1944, 1977), Маршал Сав. Саюза (1955). Чл. КПСС з 1941. У арміі з 1915, у Чырвонай Арміі з 1920. Удзельнік грамадзянскай вайны. Скончыў ваен. акадэміі імя Фрунзе (1934), Генштаба (1938). У Айч. вайну нач. аператыўнага аддзела — нам. нач., нач. штаба Паўд.-Зах. фронту; з ліп. 1942 камандуючы 16-й (11-й гвардз.) арміяй Зах. фронту, з ліст. 1943 — войскамі 1-га Прыбалтыйскага фронту, якія правялі *Гарадоцкую аперацыю 1943,* удзельнічалі ў *Беларускай аперацыі 1944, Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944, Полацкай аперацыі 1944,* Усх.-Прускай

аперацыі 1945. З крас. 1945 камандуючы войскамі *Беларускага фронту 3-га.* Пасля вайны на камандных пасадах у Сав. Арміі. У 1955—56 нам. міністра абароны, у 1958—68 нам. міністра абароны — нач. тылу Узброеных Сіл СССР. Канд. у чл. ЦК КПСС з 1952, чл. ЦК КПСС з 1961. Дэп. ВС СССР з 1946. Урна з прахам Б. ў Крамлёўскай сцяне. На

І. Х. Баграмян. І. М. Багушэвіч.



Беларусі яго імем названы вуліцы ў Гарадку і Полацку.

Аўтар кніг «Так пачыналася вайна» (1971, 3 выд. 1984), «На шляху да вялікай перамогі» (1975) і інш.

**«БАГРАЦІЁН»,** кодавая назва стратэгічнай наступальнай аперацыі Чырвонай Арміі па вызваленню Беларусі ад ням.-фаш. захопнікаў. Гл. *Беларуская аперацыя 1944.*

**БАГУШЭ́ВІЧ** Іван Міхайлавіч (25.9. 1906, Мінск — 14.8.1962), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1942. У Чырвонай Арміі з 1935. Удзельнік баёў на р. Халхін-Гол у 1939. У Айч. вайну на фронце з ліп. 1942, удзельнік Сталінградскай і Курскай бітваў, вызвалення Украіны, Малдавіі, Румыніі, Венгрыі, Чэхаславакіі, Аўстрыі. Вызначыўся ў баях пры фарсіраванні Дняпра каля Днепрадзяржынска ў кастр. 1943. Пушачна-арт. полк пад яго камандаваннем адзін з першых пераправіўся цераз раку, зламаў супраціўленне ворага і пачаў наступленне. Пасля вайны ў Сав. Арміі, палкоўнік. Ганаровы грамадзянін г. Браціслава (ЧССР).

**БАГУШЭ́ЎСК,** гарадскі пасёлак у Сенненскім р-не, чыг. станцыя на лініі Віцебск — Орша, за 38 км ад Сянно, аўтадарогамі звязаны з Сянно, Віцебскам, Оршай. У 1935—60 цэнтр Багушэўскага р-на. 3,3 тыс. жыхароў у 1939. Акупіраваны 10.7.1941 ням.-фаш. захопнікамі, якія ў створаным тут лагеры смерці знішчылі каля 700 чал., у т. л. старых, мужчын і дзяцей (усяго за час акупацыі ў Б. і раёне знішчана 1076 чал.). На тэр. раёна дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б (10.7 — кастр. 1941; жн. 1942 — 29.6.1944) і ЛКСМБ (10.7.1942— 29.6.1944). У вер. партызаны зрабілі напад на фаш. гарнізон у пасёлку (гл. *Багушэўскі бой 1941*). Выдавалася падп. газ. *«Сталінскі шлях»*, вялі барацьбу з акупантамі партыз. брыгады 1-я імя Заслонава, 16-я Смаленская, Багушэўская і Багушэўская 2-га складу, імя А. Ф. Данукалава, Лёзненская, асобныя партыз. атрады «Меч», І. Ф. Бяляева, Багушэўскі (гл. адпаведныя артыкулы). Да канца 1943 пасёлак як чыг. станцыя і вузел аўтадарог фашысты ператварылі ў моцны вузел абароны, які прыкрываўся 3 лініямі траншэй, драцяных і мінных загарод. Амаль у кожным доме, у руінах абсталяваны агнявыя кропкі. У ноч на 25.6.1944 часці 144-й (палк. А. А. Данец), 215-й (ген.-маёр А. А. Казаран) стралк. дывізій і 2-й гвардз. танк. брыгады (палк. Я. Я. Духоўны) 5-й арміі 3-га Бел. фронту штурмам авалодалі пасёлкам, захапілі шмат палонных і трафеяў, у т. л. 2 эшалоны з харчаваннем. У вызваленні пасёлка ўдзельнічаў 5-ы партыз. атрад імя Варашылава Багушэўскай брыгады. У Б. 4 брацкія магілы сав. воінаў і партызан, загінуўшых у 1941 і пры вызваленні Б. ў 1944, на іх устаноўлены помнікі. Помнік у гонар войск 20-й арміі, якія ажыццявілі *Лепельскі контрудар 1941.* *М. І. Камінскі.*

**БАГУШЭ́ЎСКІ БОЙ 1941,** бой партызан *партызанскага атрада Багушэўскага* (камандзір — сакратар Багушэўскага падп. РК КП(б)Б А. К. Стэльмах), групы ваеннаслужачых, трапіўшых у акружэнне (камандзір П. С. Гапонцаў), і *партызанскага атрада І. Ф. Бяляева* з ням.-фаш. акупантамі ў г. п. Багушэўск у вер. 1941. У ноч на 4 вер. асн. група партызан увайшла ў пасёлак, дзе размяшчаўся гарнізон ворага, закідала гранатамі памяшканне камендатуры, разграміла раённую управу, знішчыла 2 аўтамашыны, пам. ваен. каменданта Віцебска, які прыехаў на нараду, і 4 гітлераўцаў, захапіла трафеі і дакументы і вярнулася на базу. Група прыкрыцця з боку шашы Віцебск — Орша сустрэла агнём фашыстаў, якія спяшаліся на дапамогу гарнізону, падарвала 1 аўтамашыну, астатнія 3 павярнулі назад. Пасля бою фаш. газ. «Витебский вестник» пісала: «Партызанскі атрад пад камандаваннем Бяляева колькасцю 1000 чал., узброены артылерыяй, танкамі, мінамётамі і кулямётамі, зрабіў налёт на Багушэўск».

**БА́ЕР** Клімент (1912), нямецкі антыфашыст. З канца 1941 у складзе гаспадарчай каманды служыў у Вілейцы, Бабруйску, Слуцку. Да мясцовых жыхароў адносіўся лаяльна, вёў з урачом партыз. сувязной В. І. Алейнік паліт. дыскусіі пра будучае Германіі, прыняў на працу шафёрам Анохіна, ведаючы, што той партызан. Нач. асобага аддзела партыз. брыгады імя Фрунзе В. І. Гурыновіч цераз А. Дз. Фаміна наладзіў сувязь з Б. восенню 1943. Б. аформіў на працу шафёрам у гаспадарчую каманду партыз. сувязнога ст. лейтэнанта Аляксандрава. 8.12.1943 Б. прыбыў да партызан на грузавіку, прывёз радыёпрыёмнік, 4 аўтаматы, 4 вінтоўкі, каля 30 гранат, больш за 4 тыс. патронаў, даў дакладныя каардынаты размяшчэння 6 складоў з палівам і харчамі, ляснога лагера эсэсаўцаў каля в. Кісялевічы, дзе знаходзілася каля 3500 фашыстаў і моцная радыёстанцыя для абслугоўвання камандавання СС, сістэму процiпаветранай абароны Бабруйска. Расказаў, што ў раёне Кёльна, дзе ён нядаўна быў у адпачынку, узводзяцца стартавыя пляцоўкі для абстрэлу Лондана «цуда-снарадамі», што новыя снарады-ракеты будуць прыменены і на Усх. фронце. Паведаміў таксама, быццам бы рыхтуецца спец. дэсант для нападу на Тэгеран, дзе маюць намер сабрацца кіраўнікі саюзных дзяржаў. 9.1.1944 Б. адпраўлены самалётам у Маскву. Пасля вайны вярнуўся ў Германію. *В. К. Кісялёў.*

**БАЖА́НАЎ** Аляксандр Васілевіч (1.9. 1917, в. Труфанцава Барысаглебскага р-на Яраслаўскай вобл.— 29.6.1944), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1942. На фронце з 1941. Камандзір гарматы ст. сяржант Б. вызначыўся пры вызваленні Магілёўскай вобл.: 29.6.1944 у час атакі ворага каля в. Гаршкова Шклоўскага р-на, калі скончыліся боепрыпасы, Б. кінуўся з гранатамі пад варожы танк. Пахаваны ў в. Гаршкова ў брацкай магіле.

**БАЗЫЛЕ́ВІЧ** Аляксандр Мікітавіч (14.3.1905, в. Гарадзец Бешанковіцкага р-на — 21.8.1987), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1929. Да Айч. вайны на парт. рабоце. У партызанах з крас. 1942: з мая 1942 камісар атрада, у маі — кастр. 1943 камісар, у кастр. 1943 — ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады «За Савецкую Беларусь».* У 1944—60 на парт. і прафсаюзнай рабоце.

**БА́ЙКІ,** вёска на тэр. Пружанскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася ў Ружанскім сельсавеце. Перад вайной у ёй жыло 1011 чал. 22.1.1944 у час карнай аперацыі фашысты загубілі 987 жыхароў: мужчын расстралялі, жанчын з дзяцей спалілі жывымі, вёску (120 двароў) спалілі. У 1957 на магіле ахвяр фашызму ўстаноўлены абеліск (у паўд. частцы вёскі). Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**БАЙКО́Ў** Мікалай Сафронавіч (крас. 1915, в. Покаць Чачэрскага р-на — 3.10.1943), Герой Сав. Саюза (1943). На фронце з 1941, радавы. Вызначыўся пры вызваленні Камарынскага р-на: у вер. 1943 у ліку першых з групай байцоў пераправіўся цераз Дняпро, захапіў плацдарм, стварыў магчымасць для высадкі астатніх падраздзяленняў. Прапаў без вестак.

**«БАКЛА́Н»** («Kormoran»), кодавая назва буйнамаштабнай карнай аперацыі гітлераўцаў у аператыўным тыле

3-й танк. і 4-й палявой ням.-фаш. армій. Праводзілася па загаду гал. камандавання групы армій «Цэнтр» і пад яго кіраўніцтвам з 25.5 да 23.6.1944 у Барысаўскім, Халопеніцкім, Куранецкім, Крупскім, Лагойскім, Плешчаніцкім, Ільянскім, Радашковіцкім, Мінскім, Маладзечанскім, Смалявіцкім, Докшыцкім, Бягомльскім, Лепельскім р-нах. Спынена ў сувязі з пачаткам стратэгічнай Бел. наступальнай аперацыі Чырвонай Арміі. Мэта аперацыі — знішчэнне партыз. фарміраванняў паміж Лепелем і Докшыцамі і чыгункі Мінск — Орша, захоп насельніцтва для вывазу ў Германію і выкарыстання яго на абарончых работах.

Камандуючы групай армій «Цэнтр» ген.-фельдмаршал Буш упаўнаважыў камандаванне 3-й танк. і 4-й палявой армій, камандуючага вермахта «Беларусь» і вышэйшага начальніка СС і паліцыі Расіі «Цэнтр» прыцягваць і выкарыстоўваць у аперацыі «Б.» усе наяўныя ў распараджэнні сілы, незалежна ад роду і колькасці, з тым, каб забяспечыць такі ж поспех гэтай аперацыі, як і аперацыі *«Веснавое свята»*. Камандаванню ням. 6-й паветр. арміі прапанавана па магчымасці буйнымі сіламі падтрымаць аперацыю. Непасрэднае кіраўніцтва «Б.» ажыццяўляў групенфюрэр войск СС, ген.-лейт. паліцыі Готберг. Аперацыя была падзелена на 3 фазы, яе задача — адцясніць партызан збежнымі з З і У ударамі ў раён на Пн ад воз. Палік, а потым усіх, хто трапіць у «кацёл», поўнасцю знішчыць. Да 15.5.1944 у раён аперацыі былі сцягнуты 4 баявыя і 3 спец. загараджальныя групы. У склад груп 3-й танк. і 4-й палявой армій уваходзілі ў поўным складзе 201-я і 286-я ахоўныя дывізіі, 5 паліцэйскіх палкоў, 5-ы полк брыгады т. зв. Рускай вызваленчай арміі, 1 грэнадзёрскі і 3 асобныя ахоўныя палкі, 7 асобных паліцэйскіх і палявых батальёнаў, шматлікія арт. і спец. падраздзяленні. Камандныя пункты груп знаходзіліся у Вілейцы, Лепелі, Барысаве, Іўі, Пустаселлі.

Праз 2 тыдні пасля пачатку баёў намнога большым сілам праціўніка ўдалося адцясніць партызан у раён домжарыцкіх і паліккіх балот. У партызан скончыліся боепрыпасы, прадукты, медыкаменты. Камандзірам брыгад і злучэнняў Барысаўска-Бягомльскай, Сенненска-Аршанскай і Полацка-Лепельскай партыз. зон быў дадзены загад атакаваць ворага на разведаных напрамках і прарывацца з блакады. Да 15.6.1944 каля 20 партыз. брыгад прарвалі блакаду ворага, вырваліся з акружэння і нанеслі праціўніку сур'ёзныя страты. Штаб партыз. злучэння Барысаўска-Бягомльскай зоны (камандзір Р. Н. Мачульскі, нач. штаба М. К. Садоўскі, упаўнаважаны БШПР А. Ф. Бардадын) разам з партызанамі, якія не выйшлі з акружэння, утрымлівалі пазіцыі на балотных астраўках каля воз. Палік. У крытычныя моманты баёў ім аказала дапамогу сав. бамбардзіровачная авіяцыя. 23.6.1944 фашысты пачалі выводзіць свае войскі з раёна аперацыі ў сувязі з наступленнем сав. войск. Гітлераўцам удалося расчляніць партыз. сілы, нанесці ім цяжкія страты, але ўсе партыз. брыгады захавалі баяздольнасць і ўступілі ва ўзаемадзеянне з часцямі Чырвонай Арміі. Карнікі не дасягнулі і другой сваёй мэты: захоп і ўгон сав. грамадзян. Камандуючы «Б.» Готберг у роспачы адзначыў, што фашысты захапілі ўсяго 200 мужчын і жанчын, у той час як у 3 папярэдніх аперацыях «Веснавое свята», *«Прагулка на сёмуху»*, *«Марабу»* было захоплена 15 404 чал. для вывазу на катаржныя работы ў Германію. У час аперацыі была спалена в. *Дальва.* Гераізм і стойкасць партызан у барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі сарвалі запланаваныя акупантамі карныя аперацыі «Чорны» («Schwarz»), «Чырвоны» («Rot»), «Сонцастаянне» («Sonnenwende»). *У. С. Пасэ.*

**БАКУНІН** Фёдар Аляксеевіч (2.3. 1898, в. Старое Ільмава Чыстапальскага р-на Татарскай АССР — 22.1. 1984), удзельнік абарончых баёў на Беларусі ў 1941, ген.-маёр (1940). Чл. КПСС з 1925. Удзельнік 1-й сусветнай і грамадз. войнаў, Лютаўскай і Вял. Кастрычніцкай сацыяліст. рэвалюцый. У Чырв. Арміі з крас. 1918, камандзір палка, нач. ваен. вучылішча, камандзір дывізіі. З чэрв. 1941 на Зах. фронце, камандзір 61-га стралк. корпуса 13-й арміі. 3—26.7.1941 начальнік Магілёўскага р-на абароны (гл. *Магілёва абарона 1941*). Пад яго камандаваннем часці Чырв. Арміі і атрады нар. апалчэння (гл. *Магілёўскае народнае апалчэнне 1941*) 23-дзённымі жорсткімі баямі скавалі пад Магілёвам буйныя сілы ворага ў перыяд *Смаленскай бітвы 1941*, сталі магутнай перашкодай на шляху правага крыла групы армій «Цэнтр» і нанеслі значныя страты ўдарным сілам праціўніка. У ліст. 1941 выйшаў з акружэння. У гады вайны цяжка паранены і кантужаны. Да 1947 камандаваў корпусам, потым у адстаўцы.

**БАЛА́Н** Мікалай Харлампавіч (1917, с. Спасава Наўгародкаўскага р-на Кіравагradскай вобл.— 27.8.1954), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1943. З ліп. 1941 камандзір партыз. групы, атрада, у вер. 1942— чэрв. 1943 — *партызанскай брыгады 1-й Мінскай*, у кастр. 1943— ліп. 1944 — *партызанскай брыгады «Разгром»*. Пасля вайны на гаспадарчай рабоце.

**«БАЛО́ТНАЯ ЛІХАМА́НКА»** («Sumpffieber»), кодавая назва адной з найбольш буйных карных аперацый ням.-фаш. захопнікаў супраць партызан і мясцовага насельніцтва ў т. зв. генеральнай акрузе «Беларусь» на тэр. Віцебскай, Мінскай і Брэсцкай абл. Складалася з 7 паслядоўных аперацый. Праводзілася 25.8—20.9. 1942 па загаду рэйхсфюрэра СС Гімлера сіламі нач. СС і паліцыі «Остланд», нач. паліцыі парадку Беларусі, паліцыі бяспекі і СД, камандуючага вермахта «Остланд»: 1-й матарызаванай брыгадай СС, 23-га паліцэйскага палка, 8 асобных ахоўных батальёнаў, 5 матарызаваных узводаў жандармерыі, 3 зондэркаманд СС і інш. Карнікам быў дадзены загад: «Пры правядзенні аперацыі дзейнічаць бязлітасна. Усе вёскі, якія знаходзяцца ў балоцістым і лясным раёнах, дзе будзе праводзіцца аперацыя, падлягаюць знішчэнню».


А. В. Бажанаў. М. С. Байкоў.

Карная аперацыя «Б. л. — Поўнач Троенфельд І» ажыццяўлялася ў Лепельскім і Бягомльскім р-нах, раёне воз. Домжарыцкае з мэтаю знішчэння партыз. атрада «Рамана» (камандзір Р. А. Дзякаў) і цывільнага насельніцтва, якое знаходзілася пад яго абаронай. Партызаны разам з насельніцтвам пакінулі лагер каля в. Квєтча (Бягомльскі р-н), адышлі ўглыб Бярэзінскага запаведніка. Карнікі падверглі лясны масіў арт. мінамётнаму абстрэлу, але з-за панесеных страт ад праследавання адмовіліся. У задачу 2-й аперацыі «Б. л.— Поўнач Бінц» у Плешчаніцкім і Ільянскім р-нах уваходзіла знішчэнне партыз. атрадаў «Мсцівец» (камандзір В. Ц. Варанянскі) і «Барацьба» (камандзір С. М. Далганаў), што дзейнічалі ў раёне паміж рэкамі Вілія і Ілія. Партызаны разам з часткай жыхароў знайшлі праход на стыках батальёнаў гітлераўцаў, якія іх акружалі, і вырваліся з кальца блакады ў раён вёсак Пядань — Мсціж. Раззлаваныя няўдачамі карнікі з 27.8 да 6.9.1942 правялі 4 крывавыя аперацыі: на ПнЗ ад Лагойска «Б. л.— Поўнач Баркхольт», у Лагойскім і Смалявіцкім р-нах, у вусці р. Цна каля в. Мыльніца — Масцішча «Б. л. — Поўнач Троенфельд ІІ», у Узденскім р-не, паміж дарогай Мінск — Слуцк і воз. Сіняе — лясны масіў паміж вёскамі Церабель, Кавалевічы, Таўкачэвічы, Гута, Ячанка, Асака «Б. л.— Поўнач Троенфельд ІІІ» і ў Стаўбцоўскім р-не ў Налібоцкай пушчы «Б. л.— Захад». 7-я аперацыя «Б. л.— Паўднёвы Захад» праводзілася ў Быценскім, Ганцавіцкім, Косаўскім і Целяханскім р-нах, у вял. лясіста-балоцістым раёне на Пн і Пд ад участка чыг. Бяроза — Баранавічы, паміж рэкамі Шчара — Грыўда, азёрамі Выганашчанскае і Баброўскае. Праз зону блакады ішоў баявымі рэйдамі ў Пінскую вобл. партыз. атрад імя Шчорса (камандзір П. В. Пранягін), які прыняў на сябе ўдар карнікаў. Дзей-

нічаючы з засад невял. рухомымі групамі, партызаны нанеслі гітлераўцам значныя страты ў жывой сіле і тэхніцы (знішчылі ахову моста цераз р. Шчара на шашы Брэст — Мінск, у в. Чамялы Касаўскага р-на ліквідавалі гарнізон палявой жандармерыі, знішчылі 2 легкавыя машыны з фаш. афіцэрамі). У рукапашным баі каля Агінскага канала поўнасцю знішчылі роту СС, захапілі больш за 100 адзінак аўтаматычнай зброі, вінтовак і паспяхова працягвалі рэйд. У ходзе карнай экспедыцыі гітлераўцы загубілі 10 013 сав. грамадзян, 1217 вывезлі на фаш. катаргу ў Германію. Асабліва жорсткай расправе падвергліся жыхары в. Бабровічы (загубілі 676 чал.), Выганошчы (31 чал.), *Вяда, Красніца, Тупічыцы* (Косаўскі р-н) і інш. Паўторна аперацыя «Б. л.» была праведзена гітлераўцамі ў сярэдзіне чэрв. 1943 у зах. частцы Ворскага лесу (в. Ворга Арлоўскай вобл.). *У. С. Пасэ, В. С. Лазебнікаў.*

**БАЛЫКО́Ў** Пётр Антонавіч (19.8.1900, в. Нісімкавічы Чачэрскага р-на — 25.7.1973), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Гомельскай вобл. Чл. КПСС з 1932. З 1918 у Чырвонай Арміі, з 1928 на сав. і гаспадарчай рабоце. У пач. Айч. вайны пакінуты ў тыле ворага, кіраўнік падп. групы, з кастр. 1941 камандзір партыз. атрада, у сак. — ліст. 1943 — *партызанскай брыгады 1-й Гомельскай*, адначасова са жн. 1941 чл. Чачэрскага падп. РК КП(б)Б. З канца 1943 у БШПР. У 1944—63 на гаспадарчай рабоце ў Чачэрску. Канд. у чл. ЦК КП(б)Б у 1949—52. Яго імем названа вуліца ў г. Чачэрск.

**«БАЛЬШАВІ́К»**, газета, заснавана ў 1935 пад назвай «За камунізм». У час ням.-фаш. акупацыі орган Капаткевіцкага падп. РК КП(б)Б. Вядома 18 нумароў з мая да 17.11.1943 на бел. мове. Рэдактары Г. Л. Каплан, І. Р. Ганусевіч (са жніўня). Пасля вызвалення да 1952 выдавалася пад той жа назвай, у 1952—62— «За камунізм», орган Капаткевіцкага РК КПБ і раённага Савета дэпутатаў працоўных.

**«БАЛЬШАВІ́К ПАЛЕ́ССЯ»**, газета, заснавана ў 1935. У час ням.-фаш. акупацыі орган *Палескага падпольнага абкома КП(б)Б* і Мазырскага ГК КП(б)Б. Выдавалася з 14.2.1943 да 6.1.1944 на бел. мове. Выйшла 80 нумароў агульным тыражом 80 тыс. экз. Рэдактар Г. Л. Каплан. Пасля вызвалення да 1952 выдавалася пад той жа назвай, у 1952—54 — «Савецкае Палессе», орган Палескага абкома і Мазырскага гаркома КПБ, абл. і гар. Саветаў дэп. працоўных.

**«БАЛЬШАВІ́ЦКАЯ ТРЫБУ́НА»**, газета, заснавана ў 1918 пад назвай «Известия Борисовского Совдепа». У час ням.-фаш. акупацыі орган *Барысаўскага падпольнага гаркома-райкома КП(б)Б*. Вядомы 31 нумар за 25.3. 1943—9.5.1944 на бел. і рус. мовах. Рэдактар Д. Ф. Канькоў. Пасля вызвалення да 1952 выдавалася пад той жа назвай, з 1952 «За камунізм», з 1963 «Камуністычная праца», орган Барысаўскіх райкома і гаркома КПБ, раённага і гар. Саветаў нар. дэпутатаў.

**«БАЛЬШАВІ́ЦКАЯ ТРЫБУ́НА»**, газета, заснавана ў 1918 пад назвай «Известия исполкома». У час ням.-фаш. акупацыі орган Сенненскага падп. РК КП(б)Б і *партызанскай брыгады Сенненскай*. Вядома 35 нумароў за 28.6.1943—14.5.1944 на бел. і рус. мовах. Рэдактары К. А. Пашкевіч, А. Н. Салоха (са студз. 1944). Пасля вызвалення выдавалася пад той жа назвай, з 1952 — «Шлях да камунізма», з 1963 — «Ленінская іскра», орган Сенненскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«БАЛЬШАВІ́ЦКІ СЦЯГ»**, газета, заснавана ў 1935. У час ням.-фаш. акупацыі орган Рудзенскага падп. РК КП(б)Б. Да мая 1943 называлася *«В бой за Родину»*. Вядомы 44 нумары за 6.11.1942—5.5.1944 на бел. і рус. мовах. Рэдактар М. С. Сіротка. Пасля вызвалення да 1952 выдавалася пад той жа назвай, са снеж. 1952 «Сталінская праўда», у 1954—60 — «Рудзенская праўда», орган Рудзенскага РК КПБ і раённага Савета дэпутатаў працоўных.

**«БАЛЬШАВІ́ЦКІ ШЛЯХ»**, газета, заснавана ў 1918 пад назвай «Полоцкая красная газета». У час ням.-фаш. акупацыі орган Полацкага падп. РК КП(б)Б. Вядома 4 нумары за 2.6.1943—7.5.1944 на бел. мове. Рэдактар Ф. Т. Шэдаў. Пасля вызвалення выдавалася пад той жа назвай, з 1952 — «Сцяг камунізму», орган Полацкіх райкома і гаркома, раённага і гар. Саветаў нар. дэпутатаў.

**«БА́МБЕРГ»** («Bamberg»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партыз. атрадаў «гарнізона Ф. І. Паўлоўскага» (гл. ў арт. *Партызанскі гарнізон, Партызанская брыгада 123-я Акцябрская імя 25-годдзя БССР*) і цывільнага насельніцтва ў Акцябрскім, Глускім, Любанскім, Капаткевіцкім, Бабруйскім р-нах 20.3—4.4.1942. Праводзілася сіламі 3 пяхотных і 1 арт. палкоў, 2 асобных паліцэйскіх батальёнаў, кав. эскадрона і 1 авіяэскадрыллі 51-й бамбардзіровачнай авіяэскадры

КАРНАЯ АПЕРАЦЫЯ „БАМБЕРГ“ 20 сакавіка—4 красавіка 1942 г.



Аўтар У. С. Пасэ

«Эдэльвейс». 20 сак. карнікі выйшлі на зыходныя пазіцыі і пачалі суцэльнае блакіраванне *Акцябрска-Любанскай партызанскай зоны.* 31 сак. праціўнік пачаў канцэнтраванае наступление-прачэсванне ў напрамку Рудабелка — Карпілаўка. З боку Глуска на ПдУ праз в. Зубарэвічы (Глускі р-н) у напрамку в. Воземля (Акцябрскі р-н) рухаўся 420-ы ландверны батальён, які ў в. Растаў, Ратміраў і чыг. ст. Ратміравічы (Акцябрскі р-н) расстраляў і павесіў 68 жыхароў. З процілеглага боку на ПнЗ ад вёсак Савічы — Колкі — Лучыцы — Кашэвічы (Капаткевіцкі р-н) 102-і славацкі полк пры падтрымцы 315-га паліцэйскага батальёна, пераадольваючы супраціўленне невял. партыз. атрадаў (баі за 2 км на Пн ад в. Бубнаўка, на ПдУ ад в. Парэчча, у раёне в. Карпілаўка Акцябрскага р-на), асядлаў дарогу Кашэвічы — Глуск і чыг. ўчастак Кашэвічы — Рабкор. У ходзе наступлення карнікі расстралялі 606 чал. і, «як мяркуецца, знішчылі пры прачэсванні і ўціхамірванні яшчэ 2000 чалавек». З захаду на ўсход з Любані праз Ямінск, Сялец, Загалле (Любанскі р-н) і Забалацце (Акцябрскі р-н) у напрамку Карпілаўкі рухаўся наперад 747-ы полк 707-й дывізіі вермахта, узмоцнены 102-м кав. эскадронам. У 1-ы дзень гітлераўцы расстралялі і павесілі каля 300 сав. грамадзян, у т. л. жанчын, дзяцей і чырвонаармейцаў, якія не выйшлі з акружэння. З боку Парыч і в. Палессе (Парыцкі р-н) у зах. напрамку вёў прачэсванне і карна-грабежніцкія акцыі 727-ы пяхотны полк, які прайшоў праз в. Гамза, Сякерычы, Вяжны (Парыцкі р-н), Раманішчы, Заазершчына да Воземлі (Акцябрскі р-н) і чыгункі і расстраляў больш за 730 сав. грамадзян. Усяго ў ходзе «Б.» гітлераўцы спалілі больш за 3600 жылых дамоў, расстралялі, павесілі і спалілі каля 5600 жыхароў, захапілі больш за 3000 галоў жывёлы, каля 200 т збожжа і фуражу. Ад рук карнікаў пацярпела амаль 80 вёсак, у т. л. Булкаў (знішчылі 40 чал.), Залессе (21 чал.), Карпілаўка, Рудабелка і Рудня (больш за 2 тыс. чал.), Кавалі (720 чал.), Курын (506 чал.), Ляўстыкі (больш за 300 чал.), Воземля (38 чал.), Парэчча (66 чал.), *Перакалле,* Пратасы (23 чал.), ст. Рабкор (56 чал.), в. *Селішча, Смуга* Акцябрскага р-на, г. п. Капаткевічы (23 чал.), в. Хвойня (1419 чал.) Капаткевіцкага р-на і інш. У ходзе баёў з карнікамі атрады М. П. Бумажкова, У. Ц. Шантара, А. Г. Балахонава і некаторыя інш. вырваліся з блакады і перадыслацыраваліся ў інш. раёны. Атрады, якія засталіся ў раёне аперацыі «Б.» і ўтрымлівалі свае пазіцыі, у маі 1942 аформіліся ў 123-ю Акцябрскую партыз. брыгаду. *У. С. Пасэ.*

**БАНАЎ** Іван Мікалаевіч (29.8.1916, г. п. Тацынскі Растоўскай вобл. — 9.2. 1982), адзін з арганізатараў партыз. руху на Беларусі, Герой Сав. Саюза (1944), ген.-маёр (1969). Чл. КПСС з 1939. У Чырвонай Арміі з 1935. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1949). Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. На фронце з чэрв. 1941. З жн. 1942 да жн. 1944 у тыле ворага, арганізоўваў дыверсійна-разведвальную работу ў Баранавіцкай, Пінскай і Брэсцкай абл., падрыхтаваў 3 групы разведчыкаў. З студз. 1944 памагаў польскім партызанам у барацьбе з гітлераўцамі. Да 1977 у Сав. Арміі.



І. М. Банаў.



П. Ф. Бандарчук.



А. І. Банкузаў.



П. Р. Барадаўка.

**БАНДАРЧУ́К** Пётр Фёдаравіч (н. 1.10. 1911, в. Забараўцы Пінскага р-на), поўны кавалер ордэна Славы. З жн. 1944 на 1-м Бел. фронце, кулямётчык. Пры авалодачні Вісленскім плацдармам 2 сут. адбіваў контратакі ворага і ўтрымліваў захоплены рубеж да падыходу батальёна; у баях за г. Познань у лют. 1945 з напарнікам авалодаў апорным пунктам праціўніка, знішчыў 7 гітлераўцаў; пры ліквідацыі Пазнанскай групоўкі ворага прыняў камандаванне аддзяленнем і не даў праціўніку вырвацца з акружэння.

**БАНДАРЭ́НКА** Максім Мінавіч (1902, хутар Кіжын, Светлагорскі р-н — 17.2. 1943), адзін з кіраўнікоў парт. падполля на тэр. Брэсцкай вобл. Чл. КПСС з 1926. У 1928—41 старшыня калгасаў, дырэктар МТС у Парыцкім, Дзяржынскім і Целяханскім р-нах. З вер. 1941 у партызанах, з канца 1942 сакратар Ганцавіцкага падп. РК КП(б)Б. Загінуў у баі.

**БА́НКУЗАЎ** Анатоль Іванавіч (15.1. 1921, в. Мхінічы Краснапольскага р-на — 23.5.1980), Герой Сав. Саюза (1945), ген.-маёр (1953). Чл. КПСС з 1942. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1947). Удзельнік сав.-фінляндскай вайны 1939—40. З 1941 на Карэльскім, Зах., Бранскім, Калінінскім, 2-м і 1-м Прыбалтыйскім, 3-м Бел. франтах: камандзір узвода, роты, нач. штаба, камандзір палка. Удзельнік абароны Ленінграда, Петразаводска, Мурманска, вызвалення Вязьмы, Невеля, Гарадка, Віцебска, Оршы, Барысава, Мінска, Ліды, штурму Тыльзіта, Кёнігсберга. Полк, якім камандаваў Б., вызначыўся ў 1945 у баі за крэпасць і ваенна-марскую базу Пілаў. Да 1962 у Сав. Арміі.

**БАРАВІ́К** Аляксандр Аляксандравіч (12.10.1904, былая в. Сяргеенкі Верхнядзвінскага р-на — 28.7.1981), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1931. З 1928 на сав. і гаспадарчай рабоце. У партызанах з ліп. 1941: камандзір узвода, з мая 1942 камісар атрада, у студз. 1943 – ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады 25-й імя П. К. Панамарэнкі*, адначасова ў сак. 1943— ліп. 1944 сакратар Любанскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—67 на парт. і гаспадарчай рабоце. Яго імем названа вуліца ў г. Любань.

**БАРАВО́К,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1 км на ПнУ ад в. Кахановічы. Перад вайной у ёй жылі 64 чал. У лют. 1943 у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»* фашысты загубілі 47 жыхароў, вёску (14 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**БАРАВЫ́Я,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на ПнУ ад в. Ліпаўкі Бігосаўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 46 чал. У сак. 1943 у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»* фашысты загубілі 21 жыхара, вёску (8 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1976 на месцы вёскі насыпаны курган і пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**БАРАВЫ́Я,** вёска на тэр. Ушацкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі. Знаходзілася за 1 км на ПнЗ ад в. Стараселле Велікадолецкага сельсавета. У 1943, у час карнай аперацыі, фашысты вёску (7 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1976 на месцы вёскі пастаўлены мемар. знак.

**БАРАДА́ЎКА** Павел Рыгоравіч (23.1. 1908, в. Асташова Чашніцкага р-на — 19.6.1968), поўны кавалер ордэна

Славы. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939 і сав. фінляндскай вайны 1939—40. На фронце з чэрв. 1941. Удзельнік Маскоўскай і Курскай бітваў, вызвалення Беларусі, Польшчы, баёў ва Усх. Прусіі. Наводчык мінамёта Б. вызначыўся: у 1944 у час прарыву абароны праціўніка каля Рагачова, фарсіравання р. Друць і ўтрымання плацдарма; у 1945 пры знішчэнні агнявой кропкі праціўніка ў час наступлення сав. войск каля Кракава; пры фарсіраванні р. Пасарга і штурме Кёнігсберга. Пасля вайны працаваў у саўгасе.

Ц. С. Барадзін.



**БАРАДА́ЎКІН** Сцяпан Якаўлевіч (27.12.1905, в. Спаская, Ельнінскі р-н, Смаленская вобл. — 8.4.1964), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1928. Перад вайной сакратар Ушацкага РК КП(б)Б. Пакінуты ў тыле ворага для падп. работы, разам з парт.-сав. актывам арганізоўваў падп. і парт.-камсам. групы, якія пачалі дзейнічаць ў ліп.— жн. 1941. У партызанах з крас. 1942, у жн. 1942 — маі 1943 нач. штаба, у крас.— чэрв. 1944 камісар *партызанскай брыгады Чашніцкай «Дубава»*, адначасова з вер. 1942 член, у маі 1943 — сак. 1944 2-і сакратар Чашніцкага падп. РК КП(б)Б.

**БАРАДЗІН** Цімафей Сцяпанавіч (жн. 1917, Гомель — 20.6.1942), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў *Гомельскага партыйнага падполля.* Герой Сав. Саюза (1965). Чл. КПСС з 1942. Вучыўся ў Маскоўскім паліграфічным ін-це. Па заданню *Гомельскага падпольнага гаркома КП(б)Б* арганізаваў і ўзначаліў групу падпольшчыкаў, якія друкавалі і распаўсюджвалі лістоўкі, рабілі для партызан ням. пашпарты, пропускі, вызвалялі з лагераў ваеннапалонных. Група Б. ўзарвала майстэрні па рамонту варожых танкаў, бензасховішча, рэстаран. З ліст. 1941 кіраўнік *Гомельскага падпольнага апаратыўнага цэнтра.* 8.5.1942 у час падрыхтоўкі ўзрыву Гомельскай электрастанцыі Б. і некалькі членаў групы арыштаваны, а потым расстраляны. У Гомелі яго імем названа вуліца, на будынку ф-кі «Палесдрук» і на дамах, дзе былі канспіратыўныя кватэры, мемар. дошкі.

**БАРА́НАВІЦКАЕ ГАРАДСКО́Е ПАТРЫЯТЫ́ЧНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з жн. 1943 да ліп. 1944. Аб'ядноўвала 32 чалавекі. Ядром падполля стала група пад кіраўніцтвам А. І. Крыштофіка, накіраваная камандаваннем атрада імя А. В. Суворава *партызанскай брыгады Першамайскай* Баранавіцкай вобл. ў крас. 1943 у горад для арг-цыі падполля. Дзейнічала ў цесным кантакце з гэтай брыгадай, з восені 1943 — пад кіраўніцтвам *Баранавіцкага падпольнага абкома КП(б)Б* і *Баранавіцкага падпольнага гаркома КП(б)Б.* Падпольшчыкі мелі ў горадзе 2 явачныя кватэры, якія трымалі П. П. Герасімук і А. А. Долгер. У вер.— ліст. 1943 патрыёты А. М. Коўш, Крыштофік, І. А. Ліцкевіч, П. П. Герасімук, Г. М. Герасімук, Л. П. Барадзінскі, Т. І. Дзэмідовіч і інш. ажыццявілі рад дыверсій на чыгунцы ў Баранавічах і недалёка ад горада. Было ўзарвана 6 эшалонаў з гаручым, ваен. тэхнікай і жывой сілай праціўніка, выведзены са строю будынкі цэнтр. блакіроўкі чыг. стрэлак, электратакарнай майстэрні, перасыльнага пункта, спалены памяшканні аўтагаража з усім абсталяваннем і 5 машынамі, мэблевая ф-ка. У студз. 1944 падпольшчыкі па заданню камандавання партыз. брыгады Першамайскай выкралі і даставілі ў штаб брыгады ням. бургамістра Баранавіч. У гэтай аперацыі ўдзельнічалі Крыштофік і М. І. Нікіцін, ім дапамагалі К. М. Долгер, Я. К. Коўш, П. А. Ліс і інш. Побач з дыверсійнай і разведвальнай дзейнасцю патрыёты распаўсюджвалі сярод насельніцтва сав. газеты і лістоўкі, збіралі зброю і боепрыпасы. Яны перадалі партызанам 4 ручных кулямёты, 11 вінтовак, 3 пісталеты, вял. колькасць патронаў. У пач. лютага 1944 па даносу агента СД 12 падпольшчыкаў арыштаваны. 11.3.1944 на рыначнай плошчы Баранавіч фашысты казнілі П. П. Герасімука, А. М. Дзяніішчыка, Я. А. Долгер, К. М. Долгера, Л. П. Барадзінскага, Т. І. Дзэмідовіча, А. Ю. Шырко, І. А. Ліцкевіча, Г. А. Ліцкевіч. У Баранавіцкай турме і *Калдычэўскім лагеры смерці* замучаны падпольшчыкі П. А. Ліс і Я. Д. Старэнга. Нягледзячы на арышты і гібель патрыётаў, падполле дзейнічала да вызвалення Баранавіч і раёна ад акупантаў.

У Баранавічах на брацкай магіле падпольшчыкаў у 1968 пастаўлены абеліск. У гонар падпольшчыкаў на месцы пакарання смерцю ў 1966 устаноўлена мемар. дошка.

*М. Ф. Шумейка.*

**БАРА́НАВІЦКАЕ ПАРТЫЗА́НСКАЕ ЗЛУЧЭ́ННЕ.** Створана ў крас. 1943 паводле рашэння *Баранавіцкага падпольнага абкома КП(б)Б.* Камандзіры: 1-ы сакратар Баранавіцкага падп. абкома КП(б)Б В. Я. *Чарнышоў* (крас. 1943— ліп. 1944), Р. А. *Сідарок* (в. а., крас.— ліп. 1944). Дзейнічала на тэр. паўн. раёнаў Баранавіцкай вобл., Дзяржынскага, Мінскага, Заслаўскага р-наў Мінскай вобл., Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. З лета 1941 на тэр. акупіраванай Баранавіцкай вобл. дзейнічалі падп. і партыз. групы. У сувязі з масавым прытокам у рады партызан мясцовага насельніцтва (з мая 1942) групы колькасна выраслі, у 2-й пал. 1942 у вобласці дзейнічалі 32 партыз. атрады. Адначасова ішоў працэс цэнтралізацыі кіравання баявымі дзеяннямі партызан у маштабах раёна, зоны. Ствараліся часовыя каардынацыйныя цэнтры: у маі 1942 *Баранавіцкая акруговая антыфашысцкая арганізацыя,* летам 1942 група аб'яднаных атрадаў (4 атрады) пад агульным кіраўніцтвам камандзіра атрада «Грозны» Б. А. Мічурына, у жн. 1942 *Асобае злучэнне партызанскіх атрадаў* (АЗПА), агульнае кіраўніцтва ажыццяўляў камандзір дыверсійна-разведвальнага атрада В. В. Шчарбіна. З ліст. 1942 большасць атрадаў, якія ўваходзілі ў АЗПА, зводзіліся ў брыгады. Гэтыя аб'яднанні, створаныя паводле ініцыятывы іх камандзіраў у ходзе сумесных баявых дзеянняў асобных атрадаў і груп, былі нетрывалыя, распадаліся і зноў складваліся для выканання чарговых баявых задач. 8.9.1942 ЦК КП(б)Б пастанавіў аднавіць работу Баранавіцкага абкома КП(б)Б (легальнага) у сав. тыле, 2.10.1942 прызначыў сакратара Баранавіцкага абкома КП(б)Б Чарнышова ўпаўнаважаным ЦК КП(б)Б па Баранавіцкай вобл., на тэр. якой у гэты час накіраваў 10 арганізатарскіх груп. У сак. 1943 у тыл ворага накіраваны (прыбылі ў Налібоцкую пушчу ў пач. крас.) арганізатарскія парт. групы на чале з Чарнышовым, Сідарком, Я. Д. *Гапеевым,* С. П. *Шупеняй.* Пачалі дзейнічаць Баранавіцкі падп. абком КП(б)Б, Івянецкі, Шчучынскі, Лідскі міжрайпартцэнтры, пазней створаны Слонімскі, Стаўбцоўскі міжрайпартцэнтры, Быценскі міжрайком КП(б)Б (гл. адпаведныя арт.). Падп. парторганы да канца крас. 1943 устанавілі сувязь з партыз. атрадамі і брыгадамі; падп. абком КП(б)Б аб'яднаў брыгады імя Сталіна, імя Чкалава, Ленінскую, імя Жукава (20 атрадаў) і 15 асобна дзейных атрадаў (усяго больш за 5 тыс. партызан), якія дзейнічалі на Пн ад чыгункі Мінск — Брэст, і на іх базе стварыў Б. п. з. У складзе абласнога злучэння былі створаны тэр. міжраённыя партыз. злучэнні: Івянецкае, Лідскае, Стаўбцоўскае, Шчучынскае, Слонімскае (гл. адпаведныя арт.). У сувязі з цяжкасцямі кіраўніцтва з адзінага абл. цэнтра партыз. рухам на тэр. ўсёй вобласці на Пд было створана і дзейнічала *Баранавіцкае паўднёвай зоны партызанскае злучэнне.* Акрамя таго, на тэр. вобласці дзейнічалі самастойна брыгады «Няўлоўныя» і атрады «Слаўны», імя Калініна, «Наватары» (гл. адпаведныя арт.). На час злучэння з часцямі Чырвонай Арміі (4—15.7.1944) Б. п. з. (паўн. групоўка) уключала: 4 міжраённыя злучэнні, якія аб'ядноўвалі 22 брыгады — імя

чальнікам Г. А. Васілевічу, Е. А. Галасаву, М. С. *Філіпоўскаму,* Героям Сав. Саюза І. К. *Кабушкіну,* Г. М. *Халасцякову* і інш. *Н. К. Дзёмін.*

**БАРА́НАВІЦКІ ПАДПО́ЛЬНЫ АБКО́М КП(б)Б.** Створаны *Цэнтральным Камітэтам КП(б)Б* і працаваў пад яго кіраўніцтвам з сак. 1943 да ліп. 1944. Дзейнічаў на тэр. Баранавіцкай вобл. Сфарміраваў і ўзначаліў падп. Івянецкі, Лідскі, Слонімскі, Стаўбцоўскі і Шчучынскі міжрайпартцэнтры, Быценскі міжрайком, Баранавіцкі гарком, Лідскі гарком-райком КП(б)Б (гл. адпаведныя арт.) і 23 райкомы [гл. *Раённыя падпольныя камітэты КП(б)Б*], якія аб'ядноўвалі 145 пярвічных парт. арг-цый, 2232 камуністаў у партыз. фарміраваннях. 22 райкомы выдавалі газеты (гл. *Друк падпольны*). Ажыццяўляў практычныя меры па развіццю патрыятычнага падполля і партыз. руху, павышэнню баяздольнасці партыз. фарміраванняў, актывізацыі іх баявой дзейнасці. Пад яго кіраўніцтвам створаны і дзейнічалі Баранавіцкае, Івянецкае, Лідскае, Стаўбцоўскае, Шчучынскае партыз. злучэнні (гл. адпаведныя артыкулы). Накіроўваў дзейнасць *Баранавіцкага падпольнага абкома ЛКСМБ, Баранавіцкай акруговай антыфашысцкай арганізацыі* і яе к-та, праводзіў паліт. работу сярод насельніцтва. Сакратары абкома: В. Я. *Чарнышоў* (з 19.3. 1943), Ф. А. *Баранаў* (з 10.8.1943, адначасова ў кастр. 1943 узначаліў *Баранавіцкае Паўднёвай зоны партызанскае злучэнне*); члены: Я. Д. *Гапееў,* Р. А. *Сідарок,* С.П. *Шупеня* (усе з 19.3.1943), Дз. М. Армянінаў, У. З. *Царук* (абодва з 8.7.1943). Друкаваны орган — газ. *«Чырвоная звязда»;* выдаваў таксама лістоўкі, адозвы, зводкі Саўінфармбюро. Базіраваўся ў Налібоцкай пушчы. 30.4.1944 ЦК КП(б)Б зацвердзіў упаўнаважаным ЦК КП(б)Б і БШПР па паўд. раёнах Баранавіцкай вобл. Р. Дз. *Румянцава* і яго нам. П. А. *Бегуна.*

2.10.1942 ЦК КП(б)Б зацвердзіў сакратара Баранавіцкага абкома КП(б)Б, упаўнаважанага ЦШПР Чарнышова ўпаўнаважаным ЦК КП(б)Б па парт. падполлю ў Баранавіцкай вобл.; пазней яго памочнікамі назначаны М. Т. *Анішчык,* Царук, Шупеня, Л. В. *Папова,* Сідарок, Гапееў. Аднак адпраўка ўпаўнаважанага і яго памочнікаў у тыл ворага затрымалася да сак. 1943. З прыбыццём на акупіраваную тэр. Баранавіцкай вобл. быў створаны Б. п. а. КП(б)Б.

У гонар падп. абкома КП(б)Б у в. Кляцішча Стаўбцоўскага р-на ў 1981 пастаўлена стэла. *Г. В. Будай.*

**БАРА́НАВІЦКІ ПАДПО́ЛЬНЫ АБКО́М ЛКСМБ.** Створаны *Цэнтральным Камітэтам ЛКСМБ, Баранавіцкім падпольным абкомам КП(б)Б,* працаваў пад іх кіраўніцтвам з крас. 1943 да 10.7.1944 на тэр. Баранавіцкай вобл.

Узначальваў дзейнасць падпольных Івянецкага, Лідскага, Слонімскага, Стаўбцоўскага, Шчучынскага міжрайцэнтраў, Навагрудскага міжрайкома, Баранавіцкага гаркома, Лідскага гаркома-райкома ЛКСМБ (гл. адпаведныя арт.), 25 райкомаў ЛКСМБ (гл. *Раённыя падпольныя камітэты ЛКСМБ*), 214 тэр. камсамольскіх, 120 маладзёжных антыфаш. арг-цый, 170 пярвічных камсамольскіх арг-цый ў партыз. фарміраваннях, усяго каля 4,9 тыс. камсамольцаў і больш за 500 маладых антыфашыстаў. Друкаваны орган — газ. *«Молодой мститель».* Сакратары: А. К. *Рыбакоў,* Ф. А. *Башкінцаў* (з 11.1.1944); члены: У. С. Міхнян, Р. Ф. Фамічоў, А. С. Міхайлічэнка (з 8.8.1943), Ц. А. Паўлюц (з 8.8.1943), П. С. Пятроўскі (са жн. 1943, упаўнаважаны ЦК ЛКСМБ па Паўд. зоне вобласці), Р. І. Гужавін (з вер. 1953), А. В. Саўцін (з 1.1.1944, член ЦК ЛКСМБ). Інструктары па падп. рабоце З. С. Салдатава (з ліст. 1943), Р. Л. Марахоўскі (з 1.1 да 13.3.1944), Г. В. Кулага (з лютага да 13.3.1944), У. Ц. Хазяеў (з 10.2.1944). Асн. база знаходзілася ў Налібоцкай пушчы, на Пн ад в. Налібокі Івянецкага р-на. На тэр. вобласці ў кастр. 1943— маі 1944 працаваў і кіраваў камсам. падполлем сакратар ЦК ЛКСМБ Ф. А. *Сурганаў,* у ліп.— ліст. 1943 — інструктар ЦК ВЛКСМ М. М. Братоўскі. На месцы базіравання Баранавіцкіх падп. абкомаў КП(б)Б, ЛКСМБ і штаба *Баранавіцкага партызанскага злучэння* адноўлены зямлянкі. *Р. М. Шавяла.*

**БАРА́НАВІЦКІ ПАДПО́ЛЬНЫ ГАРКО́М КП(б)Б.** Створаны і дзейнічаў з кастр. 1943 да 10.7.1944 пад кіраўніцтвам *Баранавіцкага падпольнага абкома КП(б)Б.* Кіраваў дзейнасцю *Баранавіцкага гарадскога патрыятычнага падполля,* вёў паліт. і арганізацыйную работу сярод насельніцтва горада. Члены гаркома неаднаразова прабіраліся ў Баранавічы, перадавалі падпольшчыкам газеты, лістоўкі, збіралі разведданыя аб праціўніку. Накіроўваў работу *Баранавіцкага падпольнага гаркома ЛКСМБ.* 1-ы сакратар гаркома Л. В. *Папова,* 2-і сакратар Ф. Д. Кавалеўскі (з 6.4.1944); члены: Г. М. Бабушкіна і К. П. Буканава (абедзве са студз. 1944). Друкаваны орган — газ. *«За Родину».* Базіраваўся ў *партызанскай брыгадзе імя К. К. Ракасоўскага.*

Да стварэння гаркома КП(б)Б барацьбу насельніцтва супраць ням. фаш. захопнікаў у Баранавічах узначальваў Баранавіцкі падп. абком КП(б)Б. *М. Ф. Шумейка.*

**БАРА́НАВІЦКІ ПАДПО́ЛЬНЫ ГАРКО́М ЛКСМБ.** Створаны і дзейнічаў з 20.12. 1943 да 10.7.1944 пад кіраўніцтвам *Баранавіцкага падпольнага абкома ЛКСМБ* і *Баранавіцкага падпольнага гаркома КП(б)Б.* Кіраваў падп. камсамольскімі і маладзёжнымі арг-цыямі і групамі г. Баранавічы. Сакратары: Р. Л. Марахоўскі (да 13.3.1944), Г. М. Бабушкіна (з 1.1.1944). Базіраваўся ў *партызанскай брыгадзе імя К. К. Ракасоўскага.*

Да стварэння гаркома падпольнай барацьбой камсамольцаў і моладзі горада супраць акупантаў кіраваў Баранавіцкі падп. абком ЛКСМБ, Стаўбцоўскі і Слонімскі міжрайцэнтры ЛКСМБ, Баранавіцкі падп. гарком КП(б)Б (гл. адпаведныя артыкулы) і Гарадзішчанскі падп. РК КП(б)Б. *Р. М. Шавяла.*

**БАРА́НАВІЦКІЯ ВАЙСКО́ВЫЯ ЗЛУЧЭ́ННІ І ЧА́СЦІ.** За вызваленне Баранавіч (8.7.1944) у час наступлення на баранавіцка-слонімскім напрамку ганаровых найменняў загадам ВГК ад 27.7.1944 удастоены 28 часцей і злучэнняў 28-й,48,65, 16-й паветр. армій, 4-га гвардз. кавалерыйскага, 1-га механізаванага і 9-га танк. карпусоў 1-га Бел. фронту.

Часці і злучэнні, якім нададзены найменні «Баранавіцкіх»: 6-ы знішчальны авіяцыйны корпус (ген.-маёр І. М. Дзусаў), 9-я гвардз. кав. дывізія (ген.-маёр І. В. Тутарынаў), 44-я гвардз. стралк. дывізія (ген.-маёр У. А. Барысаў), 20-я стралк. дывізія (палк. М. І. Пятунін), 2-я гвардз. зенітная арт. дывізія (палк. П. І. Карчагін), 323-я знішчальная авіяцыйная дывізія (палк. П. П. Рыбакоў), 157-я армейская пушачная арт. брыгада (палк. Ц. К. Кірылаў), 18-я аўтамабільная брыгада (палк. Б. М. Кугутаў), 30-ы гвардз. знішчальны авіяцыйны полк (маёр Х. М. Ібатулін), 59-ы гвардз. штурмавы авіяцыйны полк (падпалк. М. Г. Скляраў), 67-ы гвардзейскі знішчальны авіяцыйны полк (падпалк. А. Б. Паноў), 133-і знішчальны авіяцыйны полк (маёр К. А. Таўсташэй), 128-ы (маёр Н. П. Гапоненка) і 251-ы (падпалк. Ф. С. Верлань) асобныя танк. палкі, 530-ы армейскі знішчальны процітанк. арт. полк (маёр Г. М. Данільчанка), 1455-ы самаходны арт. полк (падпалк. М. М. Касцючэнка), 1508-ы самаходны арт. полк (падпалк. І. В. Гацук), 43-і (падпалк. І. А. Кудымаў), 133-і (маёр Я. А. Афанасьеў) і 183-і (маёр М. М. Самафалаў) гвардз. мінамётныя палкі, 36-ы (падпалк. С. І. Арыночка), 40-ы (падпалк. І. І. Галавашчанка) і 42-і (падпалк. А. С. Таранін) гвардз. кав. палкі, 129-ы асобны полк сувязі (падпалк. Л. М. Радоўскі), 2-і (маёр Б. В. Казлоў) і 5-ы (маёр А. Д. Васільеў) гвардз. матарызаваныя інжынерныя батальёны, 461-ы (маёр С. Н. Сцепанец) і 468-ы (маёр М. С. Арлоўскі) асобныя лінейныя батальёны сувязі.

Войскам, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Баранавіч, загадам ВГК ад 8.7.1944 аб'яўлена падзяка, у Маскве дадзены салют 20 арт. залпамі з 224 гармат. *М. І. Камінскі.*

**БАРА́НАВІЧЫ,** горад абл. падпарадкавання ў Брэсцкай вобл., за 201 км ад Брэста. Цэнтр Баранавіцкага р-на. Буйны вузел чыг. (лініі на Мінск, Брэст, Лунінец, Ліду і Ваўкавыск) і аўтамабільных дарог. У 1939—54 цэнтр Баранавіцкай вобл. 27,4 тыс. жыхароў у 1939. У першыя дні вайны ў раёне Б. вялі баі з фаш. захопнікамі часці 155-й (ген.-маёр П. А. Аляксандраў) і 55-й (палк. Д. І. Іванюк) стралк. дывізій. 25.6.1941 на працягу дня вораг вёў атакі на Баранавічы — Сіняўку, але поспеху не меў. 26 чэрв. яму ўдалося некалькі пацясніць сав. войскі, але да горада не наблізіўся.

У цяжкіх абарончых баях вызначыліся многія падраздзяленні гэтых дывізій, у т. л. 129-ы асобны знішчальны працітанк. дывізіён. 27.6. 1941 горад акупіраваны ням.-фаш. войскамі. Фашысты зруйнавалі 80 % прамысловых прадпрыемстваў, навучальных і культурна-асветных установаў, 2500 жылых дамоў, знішчылі ў горадзе і ваколіцах каля 130 тыс. чал., у тым ліку больш за 20 тыс. у адным з створаных у Б. лагеры смерці. Барацьбу з акупантамі вялі *Баранавіцкі падпольны гарком КП(б)Б, Баранавіцкае гарадское патрыятычнае падполле, Баранавіцкі падпольны абком КП(б)Б, Баранавіцкі падпольны абком ЛКСМБ, Баранавіцкая акруговая антыфашысцкая арганізацыя.* На тэр. вобласці дзейнічалі *Баранавіцкае партызанскае злучэнне* і *Баранавіцкае Паўднёвай зоны партызанскае злучэнне,* выдаваліся падп. газеты *«За Родину»* і *«Чырвоная звязда».* Вызвалены 8.7.1944 у ходзе наступлення войск 1-га Бел. фронту на баранавіцка-слонімскім напрамку ў перыяд *Беларускай аперацыі 1944.* Вызвалялі горад войскі: 65-й арміі (ген.-палк. П. І. Батаў) — 37-я (палк. В. Л. Марозаў) і 75-я (ген.-маёр В. А. Гарышны) гвардз. стралк. дывізіі, 15-я (ген.-маёр К. Е. Грэбанік) і 69-я (ген.-маёр І. І. Санкоўскі) стралк. дывізіі 18-га стралк. корпуса, 193-я стралк. дывізія (ген.-маёр А. Р. Фралянкоў) і частка сіл 44-й гвардз. стралк. дывізіі (ген.-маёр У. А. Барысаў) 105-га стралк. корпуса, 251-ы асобны танк. полк (падпалк. Ф. С. Верлань), 922-і самаходны арт. полк (падпалк. А. В. Сакалоў); 28-й арміі (ген.-лейт. А. А. Лучынскі) — 50-я гвардз. стралк. дывізія (ген.-маёр А. С. Уладычанскі) 3-га гвардз. стралк. корпуса, 130-я стралк. дывізія (палк. К. В. Сычаў) 123-га стралк. корпуса, 881-ы самаходны арт. полк (капітан П. М. Хачатур'янц) 3-га танк. корпуса; 16-й паветр. арміі (ген.-палк. С. І. Рудэнка) — 283-я знішчальная авіядывізія (палк. С. М. Чырва), частка сіл 2-й гвардз. штурмавой авіядывізіі (ген.-маёр Г. І. Камароў), 323-й знішчальнай авіядывізіі (палк. П. П. Рыбакоў) 8-га знішчальнага корпуса, 234-й знішчальнай авіядывізіі (палк. Я. З. Татанашвілі), 273-й знішчальнай авіядывізіі (палк. М. В. Ісаеў) 6-га знішчальнага авіякорпуса. 28 вайсковым злучэнням і часцям Чырвонай Арміі, якія вызвалялі горад, прысвоены ганаровыя найменні «Баранавіцкіх» (гл. *Баранавіцкія вайсковыя злучэнні і часці*). У Б. брацкія магілы сав. воінаў, падпольшчыкаў і ахвяр фашызму, на іх устаноўлены помнікі; помнікі Вызвалення, Перамогі, сав. ваеннапалонным і мясцовым жыхарам, якіх каталі фашысты; мемар. комплекс «Урочышча Гай». Працуе *Баранавіцкі краязнаўчы музей.* *М. І. Камінскі.*

**БАРАНАЎ** Ермалай Максімавіч (ліп. 1892, в. Кайкава Мінскага р-на — люты 1943), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля ў Мінску. Чл. КПСС з 1919. З 1914 у арміі. У 1918 старшыня Кайкаўскага падп. падрайкома РКП(б), нач. партыз. атрадаў. У 1919—23 у Чырвонай Арміі, потым на сав. і гаспадарчай рабоце. У Айч. вайну ўдзельнічаў у стварэнні *Мінскага партыйнага падполля,* наладжваў сувязь з партыз. атрадамі. З лета 1942 нам. нач. зоны Варашылаўскага падп. РК КП(б)Б г. Мінска, узначальваў падп. парт. арг-цыю ў Пушкінскім пасёлку. 7.10. 1942 схоплены і закатаваны.

**БАРА́НАЎ** Мікалай Юльянавіч (н. 6.12.1915, в. Пясочнае Капыльскага р-на), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Заслужаны работнік прамысловасці БССР (1976). Чл. КПСС з 1941. Скончыў Рэспубліканскую парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1948). З 1935 у Чырвонай Арміі. У 1941 удзельнік абароны Вязьмы. У партызанах з мая 1942, з ліст. 1942 нач. штаба, з снеж. 1942 камандзір атрада, у студз.— жн. 1943 нач. штаба *партызанскай брыгады 300-й імя К. Я. Варашылава,* у жн. 1943— ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады 200-й імя К. К. Ракасоўскага,* адначасова чл. Дзяржынскага падп. РК КП(б)Б. У 1964—76 1-ы нам. міністра харчовай прамысловасці БССР.

**БАРА́НАЎ** Фёдар Аляксеевіч (н. 9.1. 1905, Пецярбург), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1928. З 1940 сакратар Баранавіцкага абкома КП(б)Б, у 1942—43 упаўнаважаны ЦК ВКП(б) па ўводу энергамагутнасцей Урала. З жн. 1943 сакратар *Баранавіцкага падпольнага абкома КП(б)Б,* у кастр. 1943 — сак. 1944 камандзір *Баранавіцкага Паўднёвай зоны партызанскага злучэння.* З ліп. 1944 на парт. рабоце. З 1958 старшыня Камісіі сав. кантролю, потым Камісіі дзярж. кантролю СМ БССР. Чл. Парткамісіі пры ЦК КПБ у 1963—74. Чл. ЦК КПБ у 1949—52, 1954—66. Дэп. ВС СССР у 1954—62, ВС БССР у 1947—59. Яго імем названа вуліца ў г. Баранавічы.



Савецкія воіны на вуліцах вызваленага г. Баранавічы. 8 ліпеня 1944.

**БАРАЎЛЯ́НСКАЕ КАМСАМО́ЛЬСКА-МАЛАДЗЕЖНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ,** састаўная частка *Барысаўскага партыйна - патрыятычнага падполля.* Дзейнічала з ліп. 1941 да восені 1942 у в. Бараўляны Барысаўскага р-на. Кіраўнікі: камуніст І. А. Кароль (да 25.8. 1941, загінуў), камсамолец Д. Ф. Капыткоў. Аб'ядноўвала 6 груп, каля 30 чал. У канцы ліп. 1941 падпольшчыкі правялі нараду, на якой абмеркавалі задачы па актывізацыі барацьбы з акупантамі. Па заданню падпольшчыкаў на службу ў паліцыю пайшоў жыхар Бараўлян М. С. Тарасевіч. Яго сувязь з падполлем ажыццяўляла Г. Р. Дзяруга. Хутка з Беластоку вярнуўся ў Бараўляны і ўключыўся ў барацьбу С. В. Верхаводка, былы сакратар Бараўлянскай камсам. ячэйкі. У падп. барацьбу ўключыліся А. Ф. і Я. К. Акулічы, М. В., М. Дз. і П. І. Верхаводкі, А. І. і П. А. Ганчаровічы, А. Ф. Замблоцкі, Ф. А. і Ю. Д. Капытковы, І. А., М. А. і У. М.



Ф. А. Баранаў.

Кароль, П. З. Мароз, стараста в. Лісіна Н. С. Герасімовіч, заг. медпункта ў в. Карсаковічы І. Л. Бардушка, праз якога падпольшчыкі трымалі сувязь з барысаўскім падполлем і дзейнічалі пад кіраўніцтвам сакратара *Барысаўскага падпольнага гаркома-райкома КП(б)Б І. А. Яраша.* У пач. крас. 1942 члены падполля стварылі партыз. атрад імя Сталіна (з вер. 1942 у *партызанскай брыгадзе «Дзядзькі Колі»*). Для байцоў гэтага атрада яны здабылі 4 кулямёты, больш за 50 вінтовак, аўтамат, 2 пішучыя машынкі, радыёпрыёмнік, трымалі з атрадам цесную сувязь, праводзілі сумесныя баявыя аперацыі.

**«БАРАЦЬБА́»**, газета, орган Слонімскага антыфаш. к-та. Вядомы № 1 і 2 ад 19 і 28.6.1944 на бел. мове.

**БАРА́ШКАЎ** Міхаіл Парфёнавіч (1908, в. Бель Крычаўскага р-на — 21.2.1944), рэдактар падп. газ. *«Звязда»* — друкаванага органа ЦК і *Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б*. Чл. КПСС з 1929. У 1930—33 вучыўся ў Камуніст. ін-це журналістыкі імя Кірава ў Мінску. Быў рэдактарам раённых газет у Чавусах і Дуброўне, са студз. 1939 рэспубліканскай маладзёжнай газ. «Чырвоная змена». У час вайны палітработнік на Калінінскім фронце, на падп. рабоце ў Віцебскай вобл. У студз. 1943— лютым 1944 рэдактар падп. газет «Звязда», *«Чырвоная змена»*.

**«БАРБА́РА»** («Barbara»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партызан і цывільнага насельніцтва ў Васілевіцкім, Калінкавіцкім р-нах 9—16.10.1943. Праводзілася сіламі баявых груп вермахта і жандармерыі ў складзе 105-га грэнадзёрскага і 57-га ахоўнага палкоў, 7 асобных ахоўных батальёнаў, арт. дывізіёнаў, спец. сапёрных і інш. падраздзяленняў. Іх павінен быў падтрымліваць браняпоезд.

Тэрыторыя т. зв. «Мокрага трохвугольніка» (міжрэчча Дняпра, Прыпяці і Бярэзіны) прызначалася камандаваннем групы армій «Цэнтр» для размяшчэння тылоў 2-й ням. арміі, якая адступала ў ходзе *Чарнігаўска-Прыпяцкай аперацыі 1943*. Па выніках разведкі гітлераўцамі «Мокрага трохвугольніка» нач. аператыўнага аддзела штаба аховы тылу 2-й арміі дакладваў, што «абстаноўка ў новым тыле арміі карэнным чынам адрозніваецца ад абстаноўкі ў ранейшых тылавых раёнах... Тут... толькі некаторыя буйныя населеныя пункты (Рэчыца, Брагін, Хойнікі, Мазыр) кіруюцца і кантралююцца нямецкімі ўстановамі, а астатняя тэрыторыя знаходзіцца пад кантролем партызан...» Для «ўціхамірвання» гэтага раёна камандаванне 2-й арміі правяло карную аперацыю «Б.». Баявыя дзеянні разгарнуліся ў трохвугольніку Калінкавічы — Жлобін — Рэчыца. Галоўны ўдар прынялі на сябе брыгады і атрады Палескага і Гомельскага партыз. злучэнняў. З мэтаю «знішчэння партызан і спачуваючых ім, рэквізіцыі або знішчэння прадуктаў сельскай гаспадаркі, пазбаўлення партызан харчовай базы», гаварылася ў загадзе на аперацыю, карнікі правялі «маршы-прачоскі» з тым, каб прыцiснуць партызан і насельніцтва, якое выходзіла разам з імі, да чыг. Калінкавічы — Жлобін. Але яшчэ да пачатку аперацыі карнікі панеслі істотныя страты: 7 кастр. быў узарваны бронецягнік, падарваны на мінах танк і некалькі грузавых аўтамашын з салдатамі і афіцэрамі. 10 кастр. ўпартыя баі разгарнуліся вакол в. Буда, Смалянка, Восіпава Рудня, Замосце, Дудзічы, Антонаўская Рудня. Некалькі разоў пераходзіла з рук у рукі в. Булаўкі, бой за якую вяла *партызанская брыгада 99-я Калінкавіцкая*. 12 кастр. гітлераўцы занялі вёскі Насовічы, Карма, Залатуха, Лукі, Хамічы, Вязавіца, Ліпава, выйшлі на лінію Халоднікі — Давыдавічы, завяршыўшы акружэнне раёна аперацыі «Б.». Але да гэтага часу партыз. атрад Васілевіцкі імя Панамарэнкі вывеў насельніцтва ў размяшчэнне Гомельскага партыз. злучэння, схаваўшы ў лясах жывёлу і хлеб. 99-я Калінкавіцкая брыгада заставалася ў блакадзе, адцягваючы на сябе карнікаў, 16 кастр. яна рушыла на прарыў праз гасцінец Халоднікі — Ліпава. З боку фаш. гарнізона ў Ліпаве брыгаду прыкрылі 20 партызан з 1-га атрада імя Варашылава пад камандаваннем Ф. Г. Ухналёва. Яны адбілі атакі намнога большых сіл гітлераўцаў, знішчылі каля 40 карнікаў і забяспечылі выхад асн. сіл брыгады з блакады.

У раёне карнай аперацыі гітлераўцы расстралялі каля 200 сав. грамадзян, спалілі некалькі вёсак, устанавілі новыя апорныя пункты, узмацнілі ўцалелыя гарнізоны. Але партызаны невял. дыверсійнымі групамі зноў прасачыліся ў раёны сваёй дыслакацыі і працягвалі наносіць удары па камунікацыях праціўніка. Працягам «Б.» сталі аперацыі *«Асвячэнне храма»* і *«Хубертус»*.

*У. С. Пасэ, В. С. Лазебнікаў.*

ПЛАН ВАЙНЫ ФАШЫСЦКАЙ ГЕРМАНІІ СУПРАЦЬ СССР (План „Барбароса")

**«БАРБАРО́СА»** («Barbarossa Fall»), кодавая назва плана агрэсіўнай вайны фаш. Германіі супраць СССР; найважнейшая праграмная задача германскага фашызму на шляху да сусветнага панавання. Названы па імені германскага караля і імператара «Свяшчэннай Рымскай імперыі» Фрыдрыха I Барбароса (12 ст.), які імкнуўся крывавымі войнамі падпарадкаваць сабе суседнія дзяржавы. Распрацоўка плана пачата па распараджэнню Гітлера ў ліп. 1940, канчатковы варыянт выкладзены ў дырэктыве вярх. галоўнакамандавання ўзброенымі сіламі ад 18.12.1940, яго разгорнутае

афармленне — у дырэктыве ад 31.1. 1941. У аснову плана «Б.» пакладзены лжэнавуковая авантурыстычная тэорыя *«маланкавай вайны»* і старыя імкненні германскага імперыялізму — «Паход на Усход» (*«Дранг нах Остэн»*). Стратэгічная задача — у найкарацейшы тэрмін («яшчэ да таго, як будзе закончана вайна супраць Англіі») разграміць асн. сілы Чырвонай Арміі на З ад Дняпра і Зах. Дзвіны, захапіць важнейшыя паліт. і эканамічныя цэнтры — Маскву, Ленінград, Данбас і выйсці на лінію Архангельск — Волга — Астрахань. Асобае значэнне надавалася захопу Масквы. У плане «Б.» падрабязна выкладаліся задачы сухапутных войск, парадак узаемадзеяння іх паміж сабой і з войскамі сатэлітаў, задачы ВПС і ВМФ. Першапачатковы тэрмін нападу на СССР — май 1941 — у сувязі з правядзеннем аперацыі супраць Югаславіі і Грэцыі быў перанесены на 22.6.1941. Да гэтага часу па плану «Б.» каля граніц СССР паміж Балтыйскім і Чорным морамі былі сканцэнтраваны 3 групы армій: «Поўнач», *«Цэнтр»* і «Поўдзень», якія мелі задачу наступаць адпаведна ў напрамках на Ленінград, Маскву і Кіеў. У Фінляндыі і Нарвегіі сканцэнтроўваліся ням. армія «Нарвегія» і 2 фінскія арміі, падтрымку якім забяспечвалі 5-ы ням. паветр. флот і фінская авіяцыя. Ім ставілася задача выйсці да Мурманска і Ленінграда. У склад сканцэнтраваных для нападзення на СССР войск уваходзілі 190 дывізій (у т. л. 19 танкавых і 14 матарызаваных) Германіі і яе саюзнікаў, іх падтрымлівалі 4 паветраныя флаты, фінская і румынская авіяцыя; усяго 5,5 млн. чал., каля 4,3 тыс. танкаў, больш за 47 тыс. палявых гармат і мінамётаў, каля 5 тыс. баявых самалётаў. 22.6.1941 без абвяшчэння фашысцкая Германія пачала вайну супраць СССР. План «Б.» ажыццяўляўся з надзвычайнай жорсткасцю (гл. арт. *«Ост»*, *Генацыд*, *Акупацыйны рэжым*, *Карныя аперацыі СС*, *Лагеры смерці*). Нягледзячы на першапачатковыя поспехі ням.-фаш. войск, ажыццяўленне плана «Б.» было сарвана гераічнай барацьбой Чырвонай Арміі і ўсяго сав. народа. Яго правал тлумачыцца крайнім авантурызмам задач ням. кіраўніцтва, недаацэнкай эканамічнай і ваен. магутнасці СССР, маральна-палітычнага адзінства сав. народа.

*У. І. Лемяшонак.*

**БАРКО́ЎСКІ** Сямён Дзямідавіч (10.5. 1916, в. Курганы Кіраўскага р-на — 2.2.1977), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1943. З жн. 1941 у партызанах: камандзір групы, разведкі, нам. камандзіра, з жн. 1943 камандзір атрада, у кастр. 1943 — чэрв. 1944 камандзір *партызанскага палка 537-га*. У 1944—76 на гаспадарчай рабоце.

**БАРКО́ЎСКІ** Яўген Нічыпаравіч (н. 27.8. 1910, Вільнюс), ген.-лейт. інжынернай службы (1968). Беларус. Заслужаны будаўнік РСФСР (1970). Чл. КПСС з 1931. Скончыў Ваенна-транспартную акадэмію (1939). У ВМФ з 1932. У Айч. вайну на Чарнаморскім і Паўн. флатах, нач. інжынернай службы ваенна-марской базы. Удзельнік абароны Севастопаля, Запаляр'я. Да 1972 у ВМФ. Ленінская прэмія ў галіне навукі і тэхнікі 1984.

**БАРО́ЎСКІ БОЙ 1942** кавалерыйскага партыз. атрада (камандзір А. К. Флегантаў, гл. ў арт. *Партызанская брыгада «За Радзіму» імя А. К. Флегантава*) і групы партызан *партызанскай брыгады Чашніцкай «Дубава»* супраць штабной роты ням. 201-й ахоўнай дывізіі на шашы Лепель — Камень каля в. Бароўка 2-я Лепельскага р-на. Кав. атрад рабіў рэйд з-за лініі фронту ў тыл праціўніка. 10.9. 1942 ён дасягнуў месца размяшчэння Чашніцкай брыгады, дзе атрымаў звесткі аб перадыслакацыі штаба 201-й ахоўнай дывізіі ворага. Флегантаў паведаміў у ЦШПР аб абстаноўцы і атрымаў загад знішчыць штаб. 12 вер. байцы атрада пад кіраўніцтвам камандзіра ўзвода І. В. Жохава разам з партызанамі-мінёрамі замініравалі ўчастак шашы, па якім ажыццяўлялася перадыслакацыя штаба, і зрабілі засаду. Калі калона гітлераўцаў увайшла ў зону абстрэлу, партызаны падарвалі першую і апошнюю машыны, у выніку бою знішчылі 12 аўтамашын і больш за 80 гітлераўцаў. У баі загінуў толькі адзін партызан — Ф. М. Фамін. У 1967 на месцы бою пастаўлена стэла.

*У. С. Пасэ, Ф. А. Чарнагалава.*

**БАРСУКО́Ў** Якаў Нікандравіч (5.11. 1904, в. Кульшычы Слаўгарадскага р-на — 29.9.1971), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1927. З 1932 на сав. і гаспадарчай рабоце, з 1938 інструктар, сакратар Добрушскага РК КП(б)Б. У жн.— кастр. 1941 у тыле ворага арганізоўваў падп. работу ў Добрушскім р-не. З студз. 1942 кіраўнік дыверсійнай групы, з чэрв. 1942 камісар, у сак.— вер. 1943 камандзір *партызанскай брыгады 2-й Беларускай імя П. К. Панамарэнкі*, адначасова ў чэрв. 1942— вер. 1943 1-ы сакратар Мехаўскага падп. РК КП(б)Б. З 1943 на парт., сав. і гаспадарчай рабоце.

**БАРТАШО́Ў** Макар Уласавіч (20.9. 1909, г. Жлобін — 7.2.1948), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1931. Скончыў Ленінградскую ваенна-тэарэтычную школу лётчыкаў (1930), Ейскую школу марскіх лётчыкаў (1932). Камандзір штурмавой дывізіі марской авіяцыі палк. Б. вызначыўся ў час вайны з Японіяй. 9—17.8.1945 дывізія наносіла ўдары па часцях Квантунскай арміі ў партах і на чыг. станцыях, знішчыла 24 караблі і транспарты водазмяшчэннем 47 тыс. т, 11 эшалонаў, 5 самалётаў, 4 масты, 7 арт. батарэй, 8 складоў, 2 паравозы, 70 вагонаў, электрастанцыю, дэпо, каля 26 тыс. салдат і афіцэраў праціўніка. Загінуў пры выкананні службовых абавязкаў. Пахаваны ў Калінінградзе. Яго імем названа вуліца ў Жлобіне.



М. У. Барташоў.



Дз. П. Бартноўскі.



Е. І. Барыкін.



М. У. Барысаў.

**БАРТНО́ЎСКІ** Дзмітрый Піліпавіч (1.11. 1902, в. Цярэшкавічы Гомельскага р-на — 11.3.1970), ген.-лейт. авіяцыі (1944). Чл. КПСС з 1939. У ВМФ з 1922. Скончыў Ваен. акадэмію Генштаба (1951). Удзельнік сав.-фінляндскай вайны 1939—40. У Айч. вайну нач. штаба ВПС ВМФ. Удзельнік арганізацыі абароны Севастопаля, Ленінграда, Запаляр'я, вызвалення Севастопаля і Прыбалтыкі. З 1945 нач. штаба і камандуючы ВПС флоту, з 1952 нач. Вышэйшых афіцэрскіх курсаў. У 1954—61 у апараце Міністэрства абароны СССР.

**БАРЫ́КІН** Емяльян Ігнатавіч (2.8.1902, в. Тросная Камарыцкага р-на Бранскай вобл.— 25.3.1951), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Гомельскай вобл. Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1928. Скончыў саўпартшколу (1939). З 1937 на парт. рабоце. У 1941 сакратар Гомельскага гаркома КП(б)Б. Удзельнічаў у арганізацыі абароны Гомеля ад ням.-фаш. захопнікаў, адзін са стваральнікаў *Гомельскага палка народнага апалчэння*. З 19.8.1941 да 17.11.1943 сакратар *Гомельскага падпольнага гаркома КП(б)Б*, чл. Гомельскага падп. абкома

КП(б)Б. У жн. 1941 адзін з арганізатараў партыз. атрада «Бальшавік» (у вер. 1941 — ліст. 1942 камісар атрада), які ў кастр. 1943 рэарганізаваны ў *партызанскую брыгаду «Бальшавік»*, нач. штаба *Гомельскага партызанскага злучэння*. З 1944 сакратар Гомельскага гаркома, з 1948 сакратар Баранавіцкага абкома КП(б)Б. Чл. Рэвіз. камісіі КП(б)Б у 1949—51. Дэп. ВС БССР у 1947—51. Яго імем названы вуліца ў Гомелі, цеплаход Галоўрэчфлоту БССР.

**БАРЫСАЎ** Міхаіл Уладзіміравіч (н. 16.4.1923, в. Нараўшчызна Мазырскага р-на), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1946. Скончыў Гомельскі аэраклуб (1941), ваенна-марское авіяцыйнае вучылішча (1943). З жн. 1944 на Балтыйскім флоце, камандзір звяна, нам. камандзіра эскадрыллі. За 10 месяцаў зрабіў 47 баявых вылетаў, патапіў 9 і пашкодзіў 2 транспарты праціўніка водазмяшчэннем 80 тыс. т, патапіў лінкор «Шлезіен». Да 1960 у Сав. Арміі, падпалкоўнік.

**БАРЫСАЎ**, горад, цэнтр Барысаўскага р-на, прыстань на р. Бярэзіна, чыг. станцыя на лініі Мінск — Орша, за 76 км ад Мінска, на аўтадарозе Мінск — Смаленск. 49,1 тыс. жыхароў у 1939. Буйны прамысловы цэнтр. З 29.6.1941 абарончыя баі ў раёне Б. вялі курсанты Барысаўскага танк. вучылішча (карпусны камісар І. З. Сусайкаў), зводная дывізія з воінаў, якія адышлі з раёна Мінска (у асноўным падраздзяленні 13-й арміі), з 30 чэрв.— 1-я Маскоўская мотастралк. дывізія (палк. Я. Р. Крэйзер). З дні ў горадзе і ўздоўж шашы Мінск — Масква ішлі жорсткія баі, з 2 бакоў у іх удзельнічала каля 300 танкаў. У баях вызначыліся многія сав. воіны, у т. л. камандзір кулямётнай роты Р. Р. Ібаруры. Усяго было знішчана больш за 2 тыс. гітлераўцаў, каля 70 танкаў і многа інш. тэхнікі ворага. 2.7.1941 Б. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія стварылі тут 6 лагераў смерці, дзе знішчылі больш за 33 тыс. чал., усяго ў горадзе і раёне — 47 862 чал. Дзейнічалі *Барысаўскае партыйна-патрыятычнае падполле*, падп. гарком-райком КП(б)Б, міжрайком КП(б)Б, гарком ЛКСМБ і міжрайком ЛКСМБ, міжраённы партыйны цэнтр (гл. адпаведныя арт.), райком ЛКСМБ (жн. 1942—2.7.1944), выдавалася падп. газ. *«Бальшавіцкая трыбуна»*. На тэр. раёна дзейнічалі партыз. брыгады: 1-я Антыфашысцкая, «Дзядзькі Колі», «Стары», 2-я імя Кірава, імя Панамарэнкі, імя Шчорса, «Разгром», «Смерць фашызму», асобныя атрады: «Артур», А. Я. Васілеўскага, «Мясцовыя», «Мсцівец», імя Суворава, І. А. Яраша і інш. (гл. адпаведныя артыкулы). Паўночная частка раёна ўваходзіла ў *Барысаўска-Бягомльскую партызанскую зону*. Вызвалены 1.7.1944 у ходзе *Мінскай аперацыі 1944* войскамі 3-га Бел. фронту. У вызваленні прымалі ўдзел часці 5-й (палк. М. Л. Волкаў), 83-й (ген.-маёр А. Р. Маслаў) гвардз. стралк. дывізій 8-га стралк. корпуса, 34-й лёгкай арт. брыгады (палк. Дз. М. Гнатышын), 60-й гаўбічнай арт. брыгады (палк. С. М. Пятроў), 93-й цяжкай гаўбічнай арт. брыгады (падпалк. В. М. Несцяровіч) 20-й арт. дывізіі прарыву (ген-маёр М. П. Бялякоў) 11-й гвардз. арміі, 331-й страл. дывізіі прарыву (ген.-маёр М. П. Бе... 71-га стралк. корпуса, 66-й зенітнай арт. дывізіі (ген.-маёр С. С. Сазонаў) 31-й арміі, 3-й гвардз. танк. брыгады (падпалк. К. А. Грыцэнка), 2-й гвардз. мотастралковай брыгады (палк. Дз. Н. Далганаў) 3-га гвардз. танк. корпуса, 32-й танк. брыгады (падпалк. М. А. Курносаў) 29-га танк. корпуса 5-й гвардз. танк. арміі пры падтрымцы 1-й паветр. арміі і авіяцыі далёкага дзеяння. Пры вызваленні горада вызначыўся экіпаж танка лейт. П. М. *Рака*, які ў ноч на 30.6.1944 першым уварваўся ў горад і 17 гадзін вёў няроўны бой з праціўнікам у поўным акружэнні. Танкісты загінулі, але нанеслі ворагу вялікія страты ў жывой сіле і тэхніцы. 13 часцям і злучэнням Чырвонай Арміі, якія вызначыліся пры вызваленні горада, нададзены ганаровыя найменні «Барысаўскіх» (гл. *Барысаўскія вайсковыя злучэнні і часці*). У Б. брацкія магілы сав. воінаў, партызан, ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі; помнікі сав. танкістам, Л. І. Чалоўскай, землякам — Героям Сав. Саюза, у гонар 1-й гвардз. пралетарскай Маскоўска-Мінскай мотастралковай дывізіі; мемар. дошкі падпольшчыкам. *Барысаўскі краязнаўчы музей.*

*Л. В. Календа.*

**БАРЫСАЎСКА-БЯГОМЛЬСКАЙ ЗОНЫ ПАРТЫЗАНСКАЕ ЗЛУЧЭННЕ.** Пачало складвацца ў 2-й пал. 1942, канчаткова сфарміравалася ў жн. 1943. Камандзір — сакратар Мінскага падп. абкома КП(б)Б Р. Н. *Мачульскі* (жн. 1943 — чэрв. 1944), нач. штаба М. К. Садоўскі (жн. 1943 — чэрв. 1944). Дзейнічала на тэр. паўночных раёнаў Мінскай вобл.: Барысаўскага, Бягомльскага, Крупскага, Лагойскага, Плешчаніцкага, Смалявіцкага, Халопеніцкага. З лета 1941 на гэтай тэрыторыі дзейнічалі партыз. атрады І. А. Яраша, А. Я. Васілеўскага, М. Х. Балана («Буравеснік»), С. Н. Даўганава («Барацьба») і шматлікія партыз. групы, у лют. 1942 створаны атрад В. Ц. Варанянскага («Мсцівец»). У 1942 у сувязі з хуткім колькасным ростам існуючых і ўзнікненнем новых партыз. атрадаў пачалося стварэнне партыз. брыгад. У жн. 1942 на савеце камандавання атрадаў з удзелам прадстаўнікоў Мінскага падп. гаркома КП(б)Б створаны партыз. брыгады «Дзядзькі Колі» і «Стары» (расфарміравана 8.5.1943, атрады вылучаны ў асобна дзейныя), у вер.— «Жалязняк» і «Народныя мсціўцы», у снеж.— «Штурмавая» і імя Кірава. 11.8.1942 ЦК КП(б)Б у мэтах узмацнення кіраўніцтва падп. парт. арг-цыямі і партыз. рухам утварыў *Барысаўскі падпольны міжрайпартцэнтр* і для забеспячэння кіраўніцтва баявымі дзеяннямі партыз. брыгад і атрадаў — Барысаўскі ваенна-аператыўны цэнтр (камандзір Г. І. Абрамаў, камісар В. В. Сямёнаў, нач. штаба І. П. Ціткоў, з ліст. 1942 М. І. Каваленка), якія 5.10.1942 прыбылі ў *Барысаўска-Бягомльскую партызанскую зону* і прыступілі да работы (раён базіравання на поўнач ад воз. Палік). Міжрайпартцэнтр аб'яднаў пад сваім кіраўніцтвам партыз. брыгады і атрады, умацаваў іх арганізацыйна, у снеж. пераўтварыў ваенна-аператыўны цэнтр у ваенны аддзел міжрайпартцэнтра. У ліпені 1943 міжрайпартцэнтр скасаваны, кіраўніцтва партыз. брыгадамі і атрадамі ў зоне ажыццяўляў упаўнаважаны БШПР П. А. Жуковіч (да 16 жн.). У жн. 1943 упаўнаважаны ЦК КП(б)Б і БШПР па Барысаўска-Бягомльскай зоне, сакратар Мінскага падп. абкома КП(б)Б Мачульскі за вярпшыў стварэнне партыз. злучэння зоны і ўзначаліў яго. На час злучэння з часцямі Чырвонай Арміі (27.6—3.7.1944) у партыз. злучэнне ўваходзіла 10 брыгад — «Дзядзькі Колі», «Жалязняк», «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага, імя Кірава, «Смерць фашызму», імя Панамарэнкі, Лагойская, «Бальшавік», імя Калініна, «Штурмавая», 1-я Антыфашысцкая; 2 асобна дзейныя атрады — імя Суворава і імя Калініна (гл. адпаведныя арт.); агульная колькасць 10 436 партызан. Камандзіру злучэння Мачульскаму, камандзірам брыгад П. Р. *Лапаціну*, І. П. *Ціткову*, Г. Ф. *Пакроўскаму*, камісарам брыгад С. С. *Манковічу*, І. М. *Цімчуку* прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

*А. Л. Манаенкаў.*

**БАРЫСАЎСКА-БЯГОМЛЬСКАЯ ПАРТЫЗАНСКАЯ ЗОНА**, тэрыторыя на Пн Мінскай вобл., якую кантралявалі партызаны. У снеж. 1942 *партызанская брыгада «Жалязняк»* Мінскай вобл. вызваліла г. п. Бягомль (гл. *Бягомльская аперацыя 1942*). Да пач. 1943 увесь Бягомльскі р-н быў ачышчаны ад акупантаў. Партызаны ўстанавілі кантроль на тэр. Бягомльскага і паўн. ч. Барысаўскага р-наў (пл. 2250 км$^2$), да канца 1943 вызвалілі каля 6 тыс. км$^2$ тэр. Барысаўскага, Бягомльскага, Крупскага, Лагойскага, Плешчаніцкага, Смалявіцкага, Халопеніцкага і інш. р-наў (каля 1100 населеных пунктаў). На тэр. зоны адноўлена Сав. ўлада, выдаваліся газеты, у населеных пунктах дзейнічалі камендатуры, праводзілася масава-паліт. работа сярод насельніцтва. Падтрымлівалася рэгулярная радыёсувязь з Вял. зямлёй, з крас. 1943 у Бягомлі дзейнічаў партыз. аэрадром, на які з сав. тылу дастаўлялі зброю, боепрыпасы, меды-

каменты для партызан зоны і суседніх раёнаў Віцебскай, Вілейскай абласцей, Літвы.

Кіраўніцтва ў зоне ажыццяўлялі падп. Мінскі абком КП(б)Б, Барысаўскі міжрайпартцэнтр, райкомы партыі, штаб партыз. злучэння Б.-Б. п. з. Пасля зліцця Б.-Б. п. з. з *Полацка-Лепельскай партызанскай зонай* і *Сенненска-Аршанскай партызанскай зонай* вызваленая тэр. склала каля 11 тыс. км². Зону абаранялі партыз. брыгады «Жалязняк», «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага, «Дзядзькі Колі», «Штурмавая», «Смерць фашызму», імя Кірава, 1-я Антыфашысцкая (гл. адпаведныя арт.) і інш., што ўваходзілі ў *Барысаўска-Бягомльскай зоны партызанскае злучэнне* (усяго каля 10,5 тыс. партызан). Усе дарогі, што праходзілі праз зону, пастаянна кантраляваліся партызанамі. на танканебяспечных напрамках ствараліся фартыфікацыйныя ўмацаванні і перашкоды (равы, засекі, мінныя палі і інш.). У мэтах стрымлівання карна-грабежніцкіх вылазак ням.-фаш. акупантаў непасрэдна да гарнізонаў ворага былі высунуты дыверсійныя, разведвальныя падраздзяленні, засадныя групы. Гэта вымушала праціўніка адцягваць значныя сілы для абароны камунікацый і апорных пунктаў гарнізонаў, перашкаджала прасоўванню карнікаў у глыб зоны і ў населеныя пункты, што кантраляваліся партызанамі. Дапамогу партызанам аказвалі падпольшчыкі Мінска, Барысава, Докшыц і інш., якія перадавалі інфармацыю аб намерах і сілах праціўніка. У час буйных карных аперацый ням.-фаш. захопнікаў вял. дапамогу партызанам у абароне зоны аказвалі ЦК КП(б)Б і БШПР. Сав. лётчыкі ў складаных умовах начных вылетаў дастаўлялі з Вял. зямлі медыкаменты, боепрыпасы, эвакуіравалі параненых. Гітлераўцы няраз спрабавалі ліквідаваць зону. У ходзе карнай аперацыі *«Котбус»* (май — чэрв. 1943) у баях пад в. Пышна (гл. *Пышнянскія баі 1943*), на рубяжах р. Проня і Бярэзіна, каля партыз. аэрадрома партызаны нанеслі праціўніку значныя страты: знішчылі больш за 2 тыс. салдат і афіцэраў, 24 танкі і бронемашыны, 73 аўтамашыны, 2 самалёты, адначасова з канца крас. да сярэдзіны чэрв. пусцілі пад адхон 43 варожыя эшалоны. Байцы брыгады «Жалязняк» 12.2.1944 каля в. Улессе адбілі наступленне карнага батальёна, узмоцненага 3 танкамі і мінамётна-арт. батарэямі, 24.2. 1944 каля в. Юхноўка нанеслі страты праціўніку ў жывой сіле. Цяжкія выпрабаванні выпалі на долю партызан і цывільнага насельніцтва зоны ў час карных аперацый *«Веснавое свята»* і *«Баклан»* (крас.— чэрв. 1944), займаючы кругавую абарону на балоцістых пляцоўках, партызаны толькі ў майска-чэрвеньскіх баях знішчылі 3735, паранілі 2400 і ўзялі ў палон каля 1 тыс. варожых салдат і афіцэраў, выратавалі жыццё тысячам сав. людзей. Выніковае значэнне ў разгроме карнікаў адыграла імклівае наступленне Чырвонай Арміі і ўзаемадзеянне з ёю партыз. злучэння зоны, якое не страціла сваёй баяздольнасці.

На месцы партыз. аэрадрома пастаўлены абеліск, у в. Іканы Барысаўскага р-на ў гонар партызан Б.-Б. п. з.— помнік.

*У. С. Пасэ, Э. Ф. Языковіч.*

**БАРЫ́САЎСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-ПАТРЫЯТЫ́ЧНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з ліп. 1941 да канца чэрв. 1944 у Барысаве і раёне пад кіраўніцтвам Барысаўскага падп. РК КП(б)Б (да лют. 1942), *Барысаўскага падпольнага гаркома-райкома КП(б)Б* (з мая 1943). Дзейнасць падполля накіроўваў *Барысаўскі падпольны міжрайпартцэнтр* і *Мінскі падпольны абком КП(б)Б*. Па рашэнню ЦК КП(б)Б для арганізацыі падполля і партыз. барацьбы ў тыл ворага прыбыў 1-ы сакратар Барысаўскага РК КП(б)Б (адначасова камандзір партыз. атрада) І. А. *Яраш* з групай камуністаў. У ліп. 1941 ён з дапамогай дзесятніка торфазавода І. Я. Паўловіча звязаўся з членамі райкома — дырэктарам саўгаса «Стара-Барысаў» Т. Н. Крыушам і дырэктарам торфазавода У. А. Качаном. Да падп. дзейнасці прыцягнулі камуністаў Дз. М. Карнелюка, даваенных нам. дырэктара школы ФЗН па паліт. выхаванню Дз. К. Курачкіна, заг. гаркамгаса А. І. Казлоўскага, настаўніка А. А. Карнеева, заг. склада «Заготзбожжа» Л. В. Арлова, супрацоўніцу раённага аддзела міліцыі В. В. Карнюшка, заг. і аграноміа земаддзела райвыканкома Д. В. Яшчанку і І. І. Хадасевіча, старшыню саўгаса «Маяк сацыялізма» В. М. Старадзетку. На нарадзе Яраш паставіў перад камуністамі задачу стварыць у горадзе шырока разгалінаванае падполле, уцягнуць у яго камсамольцаў і беспарт. патрыётаў, наладзіць выпуск і распаўсюджанне лістовак, збор зброі і боепрыпасаў, праводзіць агітацыю сярод насельніцтва і накіроўваць надзейных людзей у лес для стварэння партыз. атрадаў. Адказнымі за агітацыйную работу прызначаны Курачкін і Карнееў, за адпраўку людзей у партыз. атрады — Паўловіч і Старадзетка, за дыверсіі — Арлоў. Памочнікамі Яраша ў кіраўніцтве падп. барацьбой прызначаны Крыуш і У. А. Качан.

У ліку першых створана падп. група на шклозаводзе на чале з І. П. Даўгалавым і У. У. Лазоўскім, якія па заданню падполля паступілі сюды на работу адпаведна дырэктарам і заг. сталовай прадпрыемства. У склад групы ўвайшлі рабочыя С. У. Басалкін, Ф. Ф. Кавалёў, Г. Ф. Чарноў, выпускнік Мінскага медінстытута Б. К. Замбржыцкі, пам. заг. раённай санэпідэмстанцыі М. І. Прырыз і інш. Гэта група стала цэнтральнай. Пад яе кіраўніцтвам дзейнічала камсамольска-маладзёжная група Б. П. Качана, у якую ўваходзілі: І. М. Бараўля, А. М. Зялёнка, М. А. Капшай, М. А. Карнееў, М. М. Комар, А. І. Ржауцкі, Л. І. Чалоўская, Л. А. Шапчыц. За кароткі час яны сабралі на месцах баёў 265 гранат, вял. колькасць вінтовак, пісталетаў, патронаў і накіравалі ўсё гэта ў партыз. атрад Яраша. Пад кіраўніцтвам Даўгалава і Лазоўскага дзейнічала група і ў Стара-Барысаве, у якую ўваходзілі: І. Л. Бардушка, М. У. і Т. Т. Галавачовы, Р. С. Дайнека, А. І. Дударэнка, Ю. І. Лукомская, А. С. Малевіч, Г. Т. Пушкіна і інш. У падп. групу на чыг. станцыі на чале з слесарам-водаправодчыкам Дз. І. Лебедзевым уваходзілі машыністы Ф. А. Валёк, Д. Б. Вярэка, А. Я. Зайцаў. Яны сачылі за рухам воінскіх эшалонаў, выводзілі са строю паравозы, узарвалі тэлефонную калонку, праз якую гітлераўцы трымалі сувязь з фронтам; 27.12.1943 члены групы П. і Н. П. Токаравы ўзарвалі на чыг. станцыі 2 паравозы, 3 платформы з баявой тэхнікай. Дырэктар сярэдняй школы № 3 У. К. Бранавіцкі стварыў групу, у якую ўвайшлі настаўнікі Я. І. Буйко, Я. М. Зомерфельд, Р. І. Ляшкевіч, А. У. Ляшкевіч, яе брат Уладзімір, Г. І. Шышко, бел. пісьменнік М. М. Клімковіч. У стварэнні падп. груп актыўна ўдзельнічалі б. ваеннаслужачыя, у т. л. сакратар партбюро 144-га кав. палка ст. паліт-рук С. М. *Ігумнаў* і нач. штаба кав. дывізіі маёр П. В. *Яхантаў*, якія стварылі падп. групу ваеннаслужачых.

Дзейнічалі таксама групы на электрастанцыі, з-дах «Камінтэрн» і «Чырвоны металіст», запалкавай ф-цы, дрэваапрацоўчым камбінаце і інш., якія аб'ядноўвалі больш за 100 чал. Да пач. кастр. 1941 у Барысаве дзейнічала 17 груп. Падпольшчыкі паслалі на работу ў варожыя ўстановы надзейных людзей, у т. л. Яшчанку заг. харчаддзела раённай управы, Карнюшка сакратаром-машыністкай у гар. камендатуру, Л. М. Галынец перакладчыцай у гар. управу. Падпольшчыкі здабывалі бланкі дакументаў, харчовыя карткі, звесткі пра аб'екты і сілы ворага, ратавалі людзей ад вывазу ў Германію. Замбржыцкі, які ўладкаваўся заг. аддзела аховы здароўя гар. управы, стварыў падп. групу з цэнтрам на санэпідэмстанцыі. Група перапраўляла да партызан ваеннапалонных, перадавала зброю, медыкаменты, склала план агнявых кропак праціўніка ў горадзе. Па радыёпрыёмніках у дамах У. А. Качана, В. Л. Мароза, П. Р. Паўлаўца, Р. М. Стракалава і інш. падпольшчыкі слухалі і запісвалі зводкі Саўінфармбюро, выступленні кіраўнікоў партыі і ўрада. Карнееў і Курачкін пісалі лістоўкі, у іх распаў-

сюджанні ўдзельнічалі Т. Т. Галавачова, Т. К. Ермаловіч, Лукомская, С. М. Манкевіч, Р. К. Міклушын, Пушкіна, А. М. Сідзяеў, Стракалаў і інш. Канспіратыўныя кватэры трымалі Ермаловіч, Варанковы, Гаўрылавы, Сахончыкі. Наяўнасць канспіратыўных кватэр, бланкаў дакументаў і пропускаў давала магчымасць ратаваць сав. ваеннапалонных з фаш. лагераў смерці і накіроўваць іх да партызан. Толькі за восень 1941 і зіму 1942 было адпраўлена больш за 200 ваеннапалонных; каля 60 цяжкапараненых байцоў і камандзіраў Чырвонай Арміі было вылечана ў падп. шпіталі, створаным у горадзе нач. урачэбнага ўчастка чыг. станцыі П. М. Вусціным, які ўзначальваў падп. групу медработнікаў.

Падпольшчыкі дрэваапрацоўчага камбіната «Камінтэрн» узарвалі падстанцыю на ф-цы «Прафінтэрн», якая забяспечвала электраэнергіяй ф-ку і камбінат. Нач. электрацэха Манкевіч псаваў электрарухавікі, падпаліў лесапільны цэх. Патрыёты на чале з І. Л. Піваваравым і А. Ф. Самарадавым узарвалі на электрастанцыі воданапорную станцыю, спалілі 2 электраматоры. Пад кіраўніцтвам камуніста А. К. Хаўстава ажыццёўлены шэраг дыверсій на з-дзе «Чырвоны металіст». У лют. 1942 у няроўным баі з гітлераўцамі загінуў І. А. Яраш. Падп. барацьбой працягвалі кіраваць Качан і Крыуш. Вясной і летам 1942 у турмы кінуты і пасля катаванняў расстраляны У. А. Качан, Т. Н. Крыуш і інш. падпольшчыкі, многія пайшлі з горада. Тыя, што засталіся, яшчэ больш заканспіраваліся і з новымі сіламі разгарнулі барацьбу супраць захопнікаў, якая асабліва актывізавалася з восені 1942. Да канца 1942 у Барысаве дзейнічала каля 20 падп. груп. Выконваючы пастанову *лютаўскага Пленума ЦК КП(б)Б 1943* «рашуча ўзмацніць пранікненне ў гарады», парт. к-ты і партыз. фарміраванні, якія дыслацыраваліся вакол Барысава, стварылі ў горадзе шырокую сетку разведвальных і дыверсійных груп. У горадзе дзейнічала некалькі груп сав. ваен. разведкі. Трымаючы сувязь з партызанамі брыгад «Дзядзькі Колі», «Разгром», імя Кірава, імя Панамарэнкі, імя Шчорса і інш., падпольшчыкі правялі шэраг баявых аперацый і дыверсій. Вясной 1943 яны спалілі гараж з 8 аўтамашынамі, склад з гаручым і запчасткамі. Падпольшчыкі з-да «Чырвоны металіст» знішчылі ў гаражы 5 аўтамашын, вывелі са строю 3 маторы. Патрыёты выявілі школу абвера ў пас. Печы і яе філіял у прыгарадзе Барысава, знішчылі фельдкаменданта горада і нач. будаўнічай школы, вывезлі да партызан нач. барысаўскага аддзялення контрразведкі штаба 4-й ням. арміі з важнымі дакументамі, дабылі план Барысава з умацаваннямі і ваен. аб'ектамі, схемы абарончых ліній Антосіна — Брылі, план пераправаў цераз Бярэзіну. Яны надрукавалі ў сваёй падп. друкарні і распаўсюдзілі 158,3 тыс. экз. газет і лістовак. Вялікую дапамогу падпольшчыкам аказвалі партызаны. У кастр. 1943 мінай з гадзіннікавым механізмам, атрыманай з брыгады «Смерць фашызму», дарожны майстар С. М. Кніга ўзарваў у Барысаве мост на аўтамагістралі Брэст — Масква. Напярэдадні *Беларускай аперацыі 1944* падпольшчыкі зрывалі мерапрыемствы праціўніка па разбурэнню прамысловых прадпрыемстваў і будынкаў, вывазу насельніцтва і каштоўнага абсталявання. У раёне дзейнічалі *Велікастахаўскае партыйна-камсамольскае падполле, Бараўлянскае камсамольска-маладзёжнае падполле,* Бродаўская, Жыцькаўская, Зембінская, Лошніцкая, Навасельская падп. арг-цыі.

**Група ваеннаслужачых** дзейнічала з ліп. 1941 да крас. 1942. Кіраўнікі: С. М. Ігумнаў і П. В. Яхантаў. Пасля няўдалых спроб выйсці з акружэння ст. палітрук Ігумнаў у ліп. 1941 пасяліўся ў Барысаве пад выглядам шаўца і пачаў рыхтаваць падп. групу. У яе ўвайшлі ваеннаслужачыя А. М. Ашмянскі, В. І. Кузічкін, М. С. Лысенка, І. І. Максімаў, І. П. Татаркін, мясцовыя жыхары М. І. Баранава, А. Я. Кудрэвіч, І. Ф. Мітчанка, А. М. і У. Е. Монічы, В. Л. Мароз, М. І. Пятух, К. І. Ржауцкі, Р. М. Стракалаў. Паралельна ў Барысаве пачаў ствараць падп. групу акружэнец маёр Яхантаў. Хутка абедзве групы зліліся. Аб'яднаную групу Ігумнава-Яхантава папоўнілі ваеннаслужачыя А. Ц. Кочатаў, Ф. П. *Падалян,* А. М. Сідзяеў, А. К. Саламацін, А. К. Хаўстаў, жыхары горада С. К. Бяляева, Л. І. і Э. Г. Бутвілоўскія, Н. І. Варанкова, М. П. Ермаловіч, А. М. Кузьмін, Р. І. Мухін, П. Р. Паўлавец, А. І. Сахончык. Звязаўшыся з кіраўнікамі падп. групы на шклозаводзе У. У. Лазоўскім і І. П. Даўгалавым, якія дзейнічалі пад кіраўніцтвам сакратара Барысаўскага падп. гаркома-райкома КП(б)Б І. А. Яраша, група ваеннаслужачых стала атрымліваць яго ўказанні. Патрыёты займаліся антыфаш. агітацыяй сярод насельніцтва, ратавалі ад арыштаў і пераpraўлялі да партызан трапіўшых у акружэнне, вылечаных пасля раненняў ваеннаслужачых, праводзілі дыверсіі. Здабываць зброю і боепрыпасы ім дапамагалі піянеры-падпольшчыкі на чале з В. Пашкевічам. Яны назбіралі і вынеслі з варожых складоў 10 ручных кулямётаў, 21 аўтамат, 273 вінтоўкі, 50 гранат, шмат патронаў. Падпольшчыкі навучыліся рабіць вугальныя міны. Тол і капсулі для іх здабываў з варожага склада М. Г. Бутвілоўскі. Рабілі міны Л. І. і Э. Г. Бутвілоўскія, Ермаловіч, Саламацін у хаце стрэлачніка М. І. Несцяровіча, які адносіў іх у склад з палівам. Разам з вугалем міны траплялі ў топкі паравозаў. У час арыштаў вясной 1942 амаль усе падпольшчыкі на чале з Ігумнавым і Яхантавым пайшлі да партызан.

**Група медыцынскіх работнікаў** дзейнічала з ліп. 1941 да восені 1943. Кіраўнік П. М. Вусцін. Калі 2 ліп. гітлераўцы ўварваліся ў горад, Вусцін з дапамогай медперсаналу перанёс каля 60 цяжкапараненых сав. байцоў і камандзіраў у бальніцу і аформіў на іх гісторыі хвароб, як на мясцовых жыхароў. Для работы ў бальніцы былі падабраны патрыятычна настроеныя медработнікі, у т. л. Г. І. Астроўская, Ю. Ф. Бабіцкая, В. І. Баранава, С. А. Мірзаян, М. Ф. Раманоўская, Г. Б. Хоміч, Н. Чайкоўская. Харчы для раненых здабываў з дапамогай падпольшчыкаў заг. гаспадаркі бальніцы А. С. Малевіч. Параненых ваеннаслужачых, зняверчаных на допытах партыз. сувязных пасля лячэння пераправлялі да партызан. Супрацоўнікі падп. шпіталя былі звязаны з урачамі лагера № 382 для ваеннапалонных. Некаторых вязняў удавалася ўладкаваць у шпіталь. Пасля выздараўлення частка з іх уключалася ў падп. барацьбу супраць фашыстаў, частка ішла да партызан. Да пач. 1942 больш за 30 б. параненых пераправлены да партызан. Заг. аддзела аховы здароўя раённай управы падпольшчык Б. К. Замбржыцкі зацвердзіў Вусціна гал. урачом гар. бальніцы, прызначыў амаль ва ўсе медустановы раёна надзейных людзей. Па яго прапанове пачалі працаваць у горадзе падпольшчыкі: урач Е. М. Белая, медсястра А. І. Сталярова, лабарантка М. М. Комар, санітарка М. А. Чарнышова і інш. Медработнікі дастаўлялі медыкаменты, медінструменты і перавязачны матэрыял у партыз. брыгады «Дзядзькі Колі» і імя Панамарэнкі, праводзілі паліт. работу сярод насельніцтва, здабывалі разведданыя аб праціўніку, лячылі хворых і параненых падпольшчыкаў і партызан. Для выратавання жыхароў горада ад вывазу ў фаш. няволю выдавалі фіктыўныя даведкі аб захворваннях тыфам, туберкулёзам, каростай і інш. Восенню 1943 амаль увесь персанал бальніцы пайшоў у партыз. брыгаду «Дзядзькі Колі».

У барацьбе з акупантамі загінулі: Л. В. Арлоў, І. Л. Бардушка, Т. М. Гук, І. П. Даўгалаў, І. Н. Дэмскі, П. А. Жуковіч, Б. К. Замбржыцкі, А. А. Карнееў, М. А. Карнееў, В. В. Карнюшка, Дз. М. Карнялюк, Б. П. Качан, У. А. Качан, М. М. Комар, Т. Н. Крыуш, Дз. К. Курачкін, У. У. Лазоўскі, Ю. І. Лукомская, С. М. Манкевіч, Р. Носаў, В. К. Палонік, П. Ф. Парабковіч, І. Я. Паўловіч, Г. Т. Пушкіна, А. І. Ржауцкі, К. І. Ржауцкі, В. М. Старадзетка, В. В. Сцяпурка, Н. П. Токарава, П. Токараў, А. С. Федарынчык, А. Р. Філіповіч, М. В. Фірсаў, Я. М. Францкевіч, Р. Цярэшчанка, Л. І. Чалоўская, В. П. Чарнуха, Н. П. Чарнуха, П. П. Чарнуха, І. А. Яраш, Д. В. Яшчанка. У Барысаве ў гонар падпольшчыкаў устаноўлены мемар. дошкі.

*С. К. Грабоўскі.*

**БАРЫ́САЎСКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты 17.12.1950. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, размешчана ў 2 залах, пл. 60 м², 5,5 тыс. экспанатаў асн. фонду. Экспануюцца матэрыялы аб абароне Бярэзінскага рубяжа і Барысава курсантамі танкава-тэхнічнага вучылішча, воінамі 1-й Маскоўскай Пралетарскай мотастралк. дывізіі і зводных часцей. Матэрыялы аб разгортванні падполля і партыз. руху (партыз. зброя, падп. газеты «Бальшавіцкая трыбуна»,

«Большевистская правда», лістоўкі, рукапісныя часопісы, друкарскія станкі, інструменты для дыверсій на чыгунцы, камсам. білет партызана У. В. Макарчыка, прабіты асколкам, матэрыялы аб падп. піянерскай групе В. Пашкевіча, дакументы і ўзнагароды Героя Сав. Саюза С. М. Анохіна, П. Р. *Лапаціна*, камсамолак-падпольшчыц А. М. Тарасавай і Л. І. Чалоўскай і інш.). На стэндах экспанаты і дакументы злачынстваў гітлераўцаў у Барысаве. Матэрыялы аб вызваленні горада і раёна, аб воінскіх часцях і злучэннях, якія атрымалі ганаровыя найменні «Барысаўскіх», кіцель і корцік Героя Сав. Саюза П. Ф. *Тоўсцікава,* дэталі самалёта, асабістыя рэчы французскага лётчыка Ж. Гастона з эскадрыллі «Нармандыя — Нёман» і інш. Асобныя стэнды прысвечаны Героям Сав. Саюза — землякам і атрымаўшым гэтае званне за вызваленне горада, узнагароджанню Барысава ордэнам Айч. вайны I ступені. Сярод экспанатаў — скульпт. партрэт сав. разведчыка А. І. Казлова (скульпт. У. Лятун), скульпт. кампазіцыя «Разведчыкі Б. Качан і А. Ржавуцкі» (скульпт. А. Крохалеў), гравюра «Допыт камсамолкі-падпольшчыцы М. Комар» (маст. М. Лашкоў) і інш. *Ж. В. Гілевіч.*

**БАРЫ́САЎСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ ГАРКО́М ЛКСМБ.** Дзейнічаў з кастр. 1942 да 28.6.1944 пад кіраўніцтвам *Барысаўскага падпольнага міжрайпартцэнтра,* упаўнаважанага *Мінскага падпольнага абкома ЛКСМБ* па Барысаўскай зоне Дз. В. Лёля, Барысаўскіх падп. гаркома-райкома КП(б)Б і міжрайкома ЛКСМБ. Кіраваў камсам. і маладзёжнымі падп. арг-цыямі і групамі г. Барысаў. Сакратары: У. Дз. Бухарын (Гранаў), Г. П. Дзятлава (да 1.8.1943), К. Л. Анкуда (з 1.8.1943); члены: Анкуда, Р. Л. Гольдберг, Т. Жангельдзін (з 1.12.1942), В. Ф. Сарцін (з 29.3.1943), М. І. Сыроватка (з 29.3.1944). Асн. база знаходзілася ў Барысаўскім р-не ў *партызанскай брыгадзе «Дзядзькі Колі».*

Да стварэння падп. гаркома барацьбой камсамольцаў і моладзі горада кіравалі з ліп. 1941 да лют. 1942 *Барысаўскі падпольны гарком-райком КП(б)Б* і сакратар Барысаўскага падп. РК ЛКСМБ А. М. Сляпцоў (загінуў), са жв. 1942 — упаўнаважаны ЦК ЛКСМБ і *Барысаўскага падпольнага міжрайкома ЛКСМБ* У. Дз. Бухарын (Гранаў). У чэрв. 1941 Мінскі абком ЛКСМБ пакінуў для падп. работы ў горадзе чл. ЦК ЛКСМБ сакратара Барысаўскага гаркома Р. Х. Крупкіна. У ліп. 1941 ён арыштаваны і расстраляны гітлераўцамі. *Р. М. Шавяла.*

**БАРЫ́САЎСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ ГАРКО́М-РАЙКО́М КП(б)Б.** Дзейнічаў у Барысаўскім р-не і г. Барысаў з 8.7.1941 да лют. 1942 як райком, з 30.4.1943 да 28.6.1944 як гарком-райком пад кіраўніцтвам *Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б*, з крас. да ліп. 1943 і *Барысаўскага падпольнага міжрайпартцэнтра.* З першых дзён ням.-фаш. акупацыі горада і раёна падп. РК КП(б)Б наладзіў сувязь з камуністамі, камсамольцамі, беспарт. патрыётамі з мэтай арганізацыі падп. барацьбы і партыз. руху. Стварыў і ўзначальваў *Барысаўскае партыйна-патрыятычнае падполле, Велікастахаўскае партыйна-камсамольскае падполле, Бараўлянскае камсамольска-маладзёжнае падполле,* Бродаўскую, Жыцькаўскую, Лошніцкую, Навасельскую, Неманіцкую і інш. парт. арг-цыі, удзельнічаў у стварэнні партыз. атрадаў, наладзіў іх сувязь з падполлем, распрацоўваў і праводзіў сумесныя баявыя аперацыі, вёў палітыка-масавую работу, вял. ўвагу аддаваў аб'яднанню намаганняў падпольшчыкаў, партызан, насельніцтва для разгортвання ўсенар. барацьбы. Сакратары падп. гаркома-райкома: І. А. *Яраш* (да лют. 1942, загінуў), А. І. Белісаў (30.4—30.7.1943), П. Ф. Смірноў (з 30.7.1943), П. Ц. Солдак (з мая 1944, 2-і сакратар); члены: К. І. Акуліч (да снеж. 1941), А. Г. Хадаркевіч (да лют. 1942), Белісаў (30.4—14.9.1943), У. С. Марханько (30.4.1943—7.2.1944), М. М. *Чуліцкі* (з 7.9.1943), Солдак (з 7.2.1944). Друкаваны орган — газ. *«Бальшавіцкая трыбуна»*; выдаваў таксама лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, адозвы; усяго літаратуры выпушчана больш за 158 тыс. экз. Базіраваўся ў *партызанскай брыгадзе «Дзядзькі Колі».*

У лют. 1942 у сувязі з гібеллю Яраша райком часова спыніў работу, падп. барацьбой і партыз. рухам у Барысаве і раёне да 30.4.1943 кіраваў Барысаўскі падп. міжрайпартцэнтр. Аднавіў дзейнасць як гарком-райком КП(б)Б.

У гонар падп. гаркома-райкома КП(б)Б недалёка ад в. Крынічкі Барысаўскага р-на на месцы яго базіравання ў 1955 адноўлены 3 зямлянкі, у 1982 пастаўлена стэла.

*Т. М. Антановіч.*

**БАРЫ́САЎСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ МІЖРАЙКО́М ЛКСМБ.** Створаны ЦК ЛКСМБ. Дзейнічаў з 18.7.1942 да 30.7.1943 пад кіраўніцтвам ЦК ЛКСМБ і *Барысаўскага падпольнага міжпартцэнтра.* Сакратар Я. І. Гуля; члены: У. Дз. Бухарын (Гранаў), Н. І. Качарга (да 1.9.1942), Дз. В. Лёля (з 1.9.1942), Г. П. Дзятлава (з 1.10.1942). Стварыў і кіраваў падп. Барысаўскім гаркомам, Барысаўскім, Бягомльскім, Крупскім, Лагойскім, Смалявіцкім, Халопеніцкім, Плешчаніцкім райкомамі ЛКСМБ (гл. *Раённыя падпольныя камітэты ЛКСМБ*). Друкаваны орган газ. *«Сталинское племя».* Асн. база знаходзілася ў Барысаўскім р-не, каля воз. Палік. Пасля скасавання міжрайкома работай падп. камсам. органаў і арг-цый у Барысаўскай зоне кіраваў упаўнаважаны *Мінскага падпольнага абкома ЛКСМБ* Лёля.

*Р. М. Шавяла.*

**БАРЫ́САЎСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ МІЖРАЙПАРТЦЭ́НТР,** Міжраённы партыйны цэнтр Барысаўскай зоны. Створаны ЦК КП(б)Б 11.8. 1942. Дзейнічаў з 6.10.1942 да ліп. 1943. Узначальваў парт. работу і партыз. рух на тэр. Барысаўскага, Бягомльскага, Крупскага, Лагойскага, Плешчаніцкага, Смалявіцкага і Халопеніцкага р-наў. Стварыў *Барысаўскі падпольны гарком-райком КП(б)Б*, Крупскі, Лагойскі, Плешчаніцкі, Смалявіцкі, Халопеніцкі падп. райкомы КП(б)Б [гл. *Раённыя падпольныя камітэты КП(б)Б*]. Накіроўваў дзейнасць *Барысаўскага падпольнага міжрайкома ЛКСМБ.* Састаў міжрайпартцэнтра: П. А. *Жуковіч* (кіраўнік), П. Ф. Смірноў, В. С. *Пызыкаў* (да 16.12.1942), Т. С. Радзюк (з ліст. 1942). Друкаваны орган — газ. *«Народный мститель».* Асн. база — у раёне воз. Палік.

Пасля спынення дзейнасці міжрайпартцэнтра барацьбу насельніцтва супраць акупантаў на тэр. паўн. раёнаў Мінскай вобл. ўзначальваў Мінскі падп. абком КП(б)Б.

У гонар падп. міжрайпартцэнтра і штаба партыз. брыгады «Стары» ў в. Палік Барысаўскага р-на ў 1982 пастаўлены абеліск. *А. М. Літвін.*



Помнік у гонар Барысаўскага падпольнага міжрайпартцэнтра і штаба партызанскай брыгады «Стары».

**БАРЫ́САЎСКІЯ ВАЙСКО́ВЫЯ ЗЛУЧЭ́ННІ І ЧА́СЦІ.** За вызваленне Барысава (1.7.1944) у перыяд *Мінскай аперацыі 1944* ганаровае найменне «Барысаўскіх» (загад ВГК ад 10.7.1944) атрымалі 13 часцей і злучэнняў 11-й гвардз., 31-й і 5-й гвардз. танк. і 1-й паветр. армій 3-га Бел. фронту.

Часці і злучэнні, якім нададзены найменні «Барысаўскіх»: 62-я (ген.-маёр П. Р. Бародкін) і 174-я (палк. М. І. Дзёмін) стралк. дывізіі, 66-я зенітная арт. дывізія (ген.-маёр С. С. Сазонаў), 4-я гвардз. бамбардзіровачная авіяцыйная дывізія (ген.-маёр Ф. П. Котляр), 148-ы інжынерна-танк. полк (маёр С. І. Сот-

нікаў), 47-ы асобны гвардз. разведвальны авіяцыйны полк (палк. Т. Р. Цюрын), 86-ы гвардз. знішчальны авіяцыйны полк (падпалк. У. А. Чысцякоў), 125-ы (падпалк. В. В. Маркаў) і 127-ы (палк. А. А. Калачыкаў) гвардз. бамбардзіровачныя авіяцыйныя палкі, 11-ы гвардз. інжынерна-сапёрны батальён (маёр М. С. Малахаў), 103 і асобны дарожна-эксплуатацыйны батальён (маёр Я. К. Траянаў), 204-ы асобны інжынерна-сапёрны батальён (маёр А. А. Краўчанка), 1008-ы асобны батальён сувязі (маёр А. С. Бажанаў). Войскам, якія ўдзельнічалі ў баях пры фарсіраванні Бярэзіны і вызваленні Барысава, загадам ВГК ад 1.7.1944 абʼяўлена падзяка, у Маскве дадзены салют 20 арт. залпамі з 224 гармат. *М. І. Камінскі.*


У. А. Барысенка.


А. І. Барычэўскі.


А. А. Барэйка.


П. Х. Басянкоў.


Р. М. Баталаў.


П. І. Батаў.

**БАРЫСЕ́НКА** Уладзімір Аляксандравіч (н. 25.1.1912, в. Пеніца Калінкавіцкага р-на), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1939. У Чырвонай Арміі з 1931. Скончыў Сумскае арт. вучылішча (1937), Вышэйшую афіцэрскую арт. школу (1950). Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі і Зах. Украіны ў 1939, сав.-фінляндскай вайны 1939—40. З 1941 на Ленінградскім і 2-м Бел. франтах. Удзельнік прарыву блакады Ленінграда, вызвалення Прыбалтыкі, Беларусі. Вызначыўся ў лютым 1944 у час прарыву варожай абароны каля г. Араніенбаум (цяпер Ламаносаў): арт. полк пад яго камандаваннем знішчыў глыбока-эшаланіраванае ўмацаванне, дзесяткі танкаў і гармат праціўніка. Да 1957 у Сав. Арміі, палкоўнік.

**БАРЫЧЭ́ЎСКІ** Арцём Іванавіч (28.6.1891, с. Сернікі Зарэчненскага р-на Ровенскай вобл.— 2.11.1969), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1939. Беларус. Удзельнік 1-й сусветнай і грамадзянскай войнаў. На фронце з 1941. Нам. камандзіра батальёна маёр Б. вызначыўся 24.6.1944 у час прарыву варожай абароны на ПнЗ ад Рагачова і 14.7.1944 каля Ваўкавыска. Штурмавая група пад яго камандаваннем першая ўварвалася ў Ваўкавыск, захапіла цэнтр горада і ўтрымлівала яго да злучэння з батальёнам, знішчыла 50 агнявых кропак, 8 процітанк. гармат праціўніка. Пасля вайны працаваў у г. Зернаград Растоўскай вобл. Яго імем названа вуліца ў Зернаградзе.

**БАРЭ́ЙКА** Аркадзь Аляксандравіч (26.1.1898, в. Дубраўкі Полацкага р-на — 12.12.1955), ген.-маёр (1941). Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1928. У Чырвонай Арміі з 1918. Скончыў курсы «Выстрал» (1922), Вышэйшыя акадэмічныя курсы пры Ваен. акадэміі Генштаба (1949). Удзельнік грамадзянскай вайны, вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінляндскай вайны 1939—40. У Айчыннай вайну на Зах., Бранскім, Цэнтр., Бел. і 3-м Бел. франтах, камандзір дывізіі, корпуса. У вер. 1943 байцы корпуса пад яго камандаваннем паспяхова фарсіравалі Дняпро ў Брагінскім р-не, захапілі і ўтрымалі плацдарм. Да 1953 у Сав. Арміі. Яго імем названа вуліца ў г. Калінкавічы.

**БАСКА́КАЎ** Аляксей Андрэевіч (11.2.1923, в. Саннікава Канакоўскага р-на Калінінскай вобл.— 19.5.1943), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Канд. у чл. КПСС. З чэрв. 1941 камандзір камсамольска-маладзёжнага батальёна на абарончым будаўніцтве ў Калінінскай вобл. У ліп. 1942 — маі 1943 камандзір *партызанскай брыгады імя У. І. Леніна.* Загінуў у баі.

**БАСТЫ́НСКІ БОЙ 1942** паміж партызанамі атрада імя М. Ц. Шыша (камандзір М. І. Герасімаў; пазней у складзе *партызанскай брыгады імя В. М. Молатава*) і ням.-фаш. гарнізонам у в. Бастынь Лунінецкага р-на ў жн. 1942. У в. Бастынь знаходзіўся лесапільны з-д, які нарыхтоўваў шпалы для патрэб чыгункі. 25.8.1942 партызаны напалі на гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы, знішчылі 22 гітлераўцаў, спалілі з-д і склад гатовай прадукцыі (100 м³ шпал), захапілі трафеі.

**БАСЯНКО́Ў** Пётр Харытонавіч (26.11.1908, в. Вылева Добрушскага р-на — 20.6.1969), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1944. У Чырвонай Арміі з 1930. Удзельнік сав.-фінляндскай вайны 1939—40. На фронце з чэрв. 1941. Удзельнік Сталінградскай, Курскай бітваў, вызвалення Беларусі, Прыбалтыкі, баёў ва Усх. Прусіі, Германіі. Вызначыўся ў баі каля г. Добеле Латвійскай ССР. 18.9.1944 экіпаж танка Т-34, у складзе якога быў механік-вадзіцель Б., адбіў атаку 8 танкаў, знішчыў 4 з іх. У няроўным баі ад варожага снарада танк загарэўся; астаўшыся ў жывых адзін, Б. не спыніў бою. Пасля вайны працаваў у пас. Касцюкоўка. Яго імем названы вуліцы ў гарадах Гомель, Добруш; у Касцюкоўцы, на доме, дзе ён жыў, мемар. дошка.

**БАТА́ЛАЎ** Рыгор Міхайлавіч (н. 28.1.1915, Віцебск), Герой Сав. Саюза (1943), ген.-лейт. (1965). Чл. КПСС з 1939. У Чырвонай Арміі з 1934. Скончыў Мінскае ваен. вучылішча (1937), ваен. акадэміі імя Фрунзе (1952), Генштаба (1959). З 1941 на Зах., Паўд.-Зах., Сталінградскім, Данскім, Варонежскім, Сцяпным і 2-м Украінскім франтах: нач. аператыўнага аддзялення штаба дывізіі, камандзір стралк. палка, нам. камандзіра дывізіі. Удзельнік баёў на Доне, пад Сталінградам, Белгарадам, вызвалення Румыніі, Венгрыі, Аўстрыі, Чэхаславакіі. Стралковы полк на чале з Б. вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра ў вер. 1943 на Пд ад Крамянчуга, пры захопе і ўтрыманні плацдарма на правым беразе ракі. Да 1971 у Сав. Арміі.

**БАТА́ЛАЎ** Фёдар Аляксеевіч (11.9.1900, г. Казань — вер. 1941), Герой Сав. Саюза (1941). Чл. КПСС з 1927. У Чырвонай Арміі з 1918. Удзельнік грамадзянскай, сав.-фінляндскай 1939—40 войнаў. Скончыў ваен. школу ў Казані (1929), курсы «Выстрал» (1939). На фронце з 1941. Вызначыўся ў ліп. 1941 пры нанясенні контрудару ў раёне Жлобіна і Рагачова. 15.7.1941 батальён пад камандаваннем капітана Б. зламаў супраціўленне праціўніка, заняў паўн. і паўд. дэпо ст. Жлобін; 17—18.7.1941 выбіў гітлераўцаў з вёсак Заграддзе, Завалнае і Прыдарожжа. Прапаў без вестак. Яго імем названа вуліца ў Жлобіне.

**БА́ТАЎ** Павел Іванавіч (1.6.1897, в. Філісава Рыбінскага р-на Яраслаўскай вобл. — 19.4.1985), двойчы Герой Сав. Саюза (1943, 1945), ген. арміі (1955). Чл. КПСС з 1929. У арміі з 1916. У Чырвонай Арміі з 1918. Скончыў курсы «Выстрал» (1927), Вышэйшыя акадэмічныя курсы пры Ваен. ака-

дэміі Генштаба (1950). Удзельнік 1-й сусветнай і грамадзянскай войнаў, нацыянальна-рэвалюцыйнай вайны ў Іспаніі 1936—39, вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінляндскай вайны 1939—40. З чэрв. 1941 камандзір стралк. корпуса, нам. камандуючага, камандуючы арміяй, нам. камандуючага войскамі Бранскага фронту. З кастр. 1942 камандуючы 65-й арміяй, якая дзейнічала на Данскім, Сталінградскім, Цэнтральным, Бел., 1-м і 2-м Бел. франтах. Удзельнік Сталінградскай і Курскай бітваў. У кастр. 1943 65-я армія фарсіравала Дняпро каля Лоева, захапіла плацдарм, у 1943—44 вызваляла Рэчыцу, Мазыр, Бабруйск, Асіповічы, Слонім, у 1945 — Ростак, Шчэцін, Гданск і інш. Пасля вайны на камандных пасадах у Сав. Арміі. Дэп. ВС СССР у 1937—50, 1954—66. Аўтар кн. «У паходах і баях» (М., 1974) і інш. Ганаровы грамадзянін Баранавіч, Бабруйска, Калінкавіч, Лоева, Рэчыцы, Светлагорска, Слоніма. Яго імем названы вуліцы ў Бабруйску, Лоеве, у в. Хомінка Лоеўскага р-на.

**БАТРАКО́Ў** Міхаіл Рыгоравіч (5.8.1922, в. Радуга Веткаўскага р-на — 16.1.1945), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Майкопскае бранятанк. вучылішча (1943). На фронце з 1941. Удзельнік баёў на Паўн. Каўказе, Кубані, у Крыме, на Беларусі, у Літве, Усх. Прусіі. Вызначыўся пры вызваленні Прыбалтыкі. 26.7.1944 танк. рота пад камандаваннем ст. лейт. Б. ў цяжкіх баях прарвала абарону ворага на правым беразе Нёмана каля Каўнаса, але ў варожым тыле шлях ёй перагарадзілі 30 танкаў праціўніка. Рота танкістаў адбіла 4 контратакі, знішчыла 14 танкаў, у т. л. 4 знішчыў экіпаж танка Б. Загінуў у баі на тэр. Усх. Прусіі, пахаваны ў г. Кібартай Літоўскай ССР. Яго імем названы вуліца ў г. Ветка, у в. Радуга — вуліца і школа, пастаўлены помнік.

**БА́ЎЭР** Таццяна Стафанаўна (13.4.1924, Масква — 13.6.1944), удзельніца партыз. руху на Беларусі. Дачка венгерскага камуніста — удзельніка венгерскай рэвалюцыі 1919. Чл. ВЛКСМ. У 1941 добраахвотна пайшла на фронт. Удзельніца бітвы пад Масквой, разведчыца, медсястра. З 15.8.1942 у складзе групы разведаддзела Зах. фронту на акупіраванай тэр. Беларусі, вяла разведвальную і дыверсійную работу ў Мінску і Мінскай вобл., распаўсюджвала сав. газеты, лістоўкі, здабывала зброю, боепрыпасы, медыкаменты для партызан. Загінула ў баі з карнікамі каля в. Макаўе Барысаўскага р-на. Пахавана ў брацкай магіле каля в. Макаўе. Яе імем названа вуліца ў Будапешце.



М. Р. Батракоў. Т. С. Баўэр. Б. С. Бахараў. П. М. Бахараў. І. А. Бахмецьеў. П. Ф. Баціцкі.

**БА́ХАРАЎ** Барыс Сяргеевіч (10.9.1902, г. п. Дзямянск Наўгародскай вобл.— 16.7.1944), ген.-маёр танк. войск (1942). Чл. КПСС з 1924. У Чырвонай Арміі з 1921, служыў у Бабруйску. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1932). У Айч. вайну камандаваў танк. дывізіяй і 9-м танк. корпусам, які за ўдзел у *Бабруйскай аперацыі 1944* атрымаў найменне «Бабруйскага», за ўдзел у вызваленні 8.7.1944 Баранавіч узнаг. ордэнам Чырвонага Сцяга. Загінуў каля в. Шакуны Пружанскага р-на, пахаваны ў Бабруйску, на магіле помнік — танк Т-34. Яго імем названы сквер і вуліца ў Бабруйску, вуліцы ў Касцюковічах, Пружанах. У в. Шані Пружанскага р-на яму пастаўлены помнік, на месцы гібелі — абеліск.

**БА́ХАРАЎ** Пётр Міхайлавіч (н. 7.1.1920, в. Грыневічы Лагойскага р-на), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1943. У Чырвонай Арміі з 1940. З ліп. 1941 на Паўд.-Зах., Бранскім, 1-м Бел. і інш. франтах. Камсорг батальёна лейт. Б. вызначыўся 21.9.1943 на тэр. Чарнігаўскай вобл. Узвод бранябойшчыкаў пад яго камандаваннем адбіў атаку варожых танкаў, знішчыў 3 танкі, 28.9.1943 група байцоў на чале з Б. пры фарсіраванні Дняпра ў Брагінскім р-не ліквідавала заслон на востраве, на правым беразе захапіла і ўтрымала плацдарм. Да 1974 у органах МУС, палкоўнік.

**БАХМЕ́ЦЬЕЎ** Іван Андрыянавіч (н. 31.10.1917, с. Нікольскае-на-Яманчы Хахольскага р-на Варонежскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1943), ген.-лейт. (1967). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Разанскае ваен. пяхотнае вучылішча (1938), ваен. акадэміі імя Фрунзе (1947), Генштаба (1958). Удзельнік баёў каля воз. Хасан у 1938. З крас. 1942 на Зах., Цэнтр., Бел., 1-м Бел. франтах. Полк пад яго камандаваннем вызначыўся ўвосень 1943 пры фарсіраванні Дняпра каля г. п. Лоеў і Сажа на Пд ад Гомеля. Удзельнік разгрому Квантунскай арміі Японіі. Да 1974 у Сав. Арміі.

**БАЦІЦКІ** Павел Фёдаравіч (27.6.1910, Харкаў — 17.2.1984), Герой Сав. Саюза (1965). Маршал Сав. Саюза (1968). Чл. КПСС з 1938. Скончыў ваен. акадэміі імя Фрунзе (1938), Генштаба (1948). У Чырвонай Арміі з 1924, у 1929—38 у БВА, да 1940 у Генштабе РСЧА. З 22.6.1941 на Паўн.-Зах., Варонежскім, Сцяпным, 1-м і 2-м Укр., 1-м і 3-м Бел. франтах: нач. штаба мотадывізіі, камандзір стралк. дывізіі, карпусоў. Удзельнік *Беларускай аперацыі 1944*, вызвалення Украіны, Малдавіі, Польшчы, Чэхаславакіі, разгрому фаш. групоўкі ва Усх. Прусіі, штурму Берліна. Пасля вайны на камандных пасадах у Сав. Арміі. У 1966—78 нам. міністра абароны СССР. Канд. у чл. ЦК КПСС з 1961, чл. ЦК КПСС з 1966. Дэп. ВС СССР у 1962—84.

**БАЦЮ́НЯ** Аляксандр Рыгоравіч (2.7.1898, в. Курганы Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл.— 21.3.1976), ген.-палк. (1958). Чл. КПСС з 1929. У арміі з 1916. У Чырвонай Арміі з 1918. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1934). Удзельнік грамадзянскай вайны, баёў каля воз. Хасан у 1938. У Айч. вайну з 1941 нач. штаба корпуса, арміі на Паўд., Паўд.-Зах., Варонежскім, 1-м Украінскім франтах. Удзельнік вызвалення Сумаў, Кіева, Жытоміра, Вінніцы, Камянец-Падольскага, Чэхаславакіі. Да 1961 у Сав. Арміі.

**БАЧКАНЫ́**, вёска на тэр. Шумілінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1 км на ПнУ ад в. Старынавічы Мішневіцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жылі 64 чал. У студз. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 30 жыхароў, вёску (17 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзі-

лася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**БАЧКАРЫ́,** вёска на тэр. Ушацкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1 км на ПдЗ ад в. Рагуцкія Жарскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 50 чал. У маі 1944, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 12 жыхароў, вёску (13 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1975 на месцы вёскі пастаўлены мемарыяльны знак.

А. П. Белабародаў. А. М. Белавусаў.



**БАЧЫ́ЛА** Фёдар Апанасавіч (н. 21.1. 1924, в. Бардзілаўка Мінскага р-на), удзельнік партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1951. Заслужаны работнік культуры БССР (1974). Скончыў Рэспубліканскую парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1948). З ліп. 1941 сувязны Мінскага парт. падполля, партыз. атрада імя Варашылава. З жн. 1943 у партыз. атрадзе імя Лазо брыгады 3-й Мінскай імя Будзённага кіраўнік дыверсійнай групы, якая падарвала 28 варожых эшалонаў. У 1945—46 камсорг ЦК ВЛКСМ, з 1949 у рэдакцыі газ. «Чырвоная змена». Аўтар кн. «Застаюся жыць» (1981).

**БАЧЭ́ЙКАЎСКІЯ БАІ 1943.** Буйны гарнізон гітлераўцаў у в. Бачэйкава Бешанковіцкага р-на з'яўляўся важным апорным пунктам акупантаў на шашы Віцебск — Лепель, перашкаджаў баявым аперацыям партызан на камунікацыях аператыўнага тылу 3-й танк. арміі групы армій «Цэнтр», займаўся рабаваннем насельніцтва, удзельнічаў у карных аперацыях у трохвугольніку Віцебск — Полацк — Лепель. У ноч на 25 ліп. байцы *партызанскай брыгады 2-й Ушацкай імя П. К. Панамарэнкі* разграмілі гарнізон, забілі і паранілі 70, узялі ў палон 7 гітлераўцаў, знішчылі склады з гаручым, боепрыпасамі і сельгаспрадуктамі, аўтарамонтную майстэрню з 6 аўтамашынамі і цягачамі, радыётэлефонны вузел сувязі і інш. Партызаны страцілі 8 чал. забітымі і 9 параненымі. У час *Лепельскай аперацыі 1943* бой у в. Бачэйкава 20—25 кастр. вялі партыз. брыгада «Аляксея» (гл. *Партызанская брыгада імя А. Ф. Данукалава*) і *партызанская брыгада 2-я імя К. С. Заслонава.* Партызаны павінны былі блакіраваць шашу Чашнікі — Бачэйкава і Віцебск — Лепель і разграміць гарнізоны ў вёсках Бачэйкава, Слабодка і Дзямідавічы. 20 кастр. ўдарамі з Пд і ПдЗ штурмавыя групы партызан пад прыкрыццём мінамётнага і арт. агню пасля паўтарагадзіннага бою захапілі частку вёскі Бачэйкава. Боем скаваўшы гітлераўцаў, якія замацаваліся ў дзотах на правым беразе р. Ула, партызаны брыгады «Аляксея» авалодалі в. Дзямідавічы, а заслонаўцы разграмілі гарнізон у в. Слабодка. У гэтым баі партызаны знішчылі 89, узялі ў палон 46 гітлераўцаў. Страты партызан склалі 27 чал. 25 кастр. партызаны адышлі ў напрамку в. Свяча і на дарозе Свяча — Бачэйкава разграмілі ням.-фаш. падраздзяленні (39 салдат і афіцэраў). Фашысты занялі в. Бачэйкава і спалілі яе. *У. С. Пасэ.*

**БА́ШКІНЦАЎ** Філат Антонавіч (н. 15.3. 1919, г. п. Благавешчанка Алтайскага краю), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсамольска-маладзёжнага падполля і партыз. руху ў Віцебскай і Баранавіцкай абл. Канд. эканамічных навук (1957). Чл. КПСС з 1941. Скончыў Томскі ун-т (1941), ВПШ пры ЦК КПСС (1948), Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК КПСС (1957). З 31.7.1942 да 30.11.1943 сакратар *Віцебскага падпольнага абкома ЛКСМБ*; з 11.1 да 10.7.1944 сакратар *Баранавіцкага падпольнага абкома ЛКСМБ.* З 1945 на парт. і педагагічнай рабоце.

**БАЯВЫ́Я ЛІСТКІ́,** адзін са сродкаў агітацыі і інфармацыі ў сістэме парт.-паліт. работы ў Сав. Арміі і ВМФ. Шырокае распаўсюджанне атрымалі ў гады Вял. Айч. вайны. Выпускаліся перад атакай, у паўзах паміж баямі, на маршы. Выдаваліся ў рукапісным выглядзе і на спец. бланках. Партызанскія Б. л. з'яўляліся дзейсным сродкам інфармацыі і ідэйна-паліт. выхавання нар. мсціўцаў у духу патрыятызму, інтэрнацыяналізму, нянавісці да ворага, вернасці воінскаму абавязку і партыз. клятве, аператыўна адгукаліся на злабадзённыя пытанні. Выходзілі ва ўзводах, ротах, атрадах, брыгадах 1—2, радзей 3—4 экз. штотыднёва, раз у 2 тыдні або без пэўнага тэрміну. Выдаваліся друкарскім спосабам (калі дазваляла паліграфічная база), часцей друкаваліся на пішучых машынках або пісаліся ад рукі на рознай паперы (абгортачнай, шпалерах, лістках з школьных сшыткаў і інш.), часта прыгожа афармляліся. У асобных выпадках усе нумары змяшчаліся ў адным сшытку, што паслужыла пачаткам выпуску *рукапісных часопісаў* (напр., Б. л. 1-й роты атрада імя Цімашэнкі партыз. брыгады імя Панамарэнкі Беластоцкай вобл., Б. л. 2-й роты атрада «Камунар» партыз. брыгады «Дзядзькі Колі» Мінскай вобл.). У 1942 выпуск Б. л. быў наладжаны ў брыгадах 27-й імя Чапаева, 300-й імя Варашылава, «Народныя мсціўцы», 1-й Мінскай і інш. У 1943 яны выпускаліся рэгулярна амаль у кожным атрадзе і брыгадзе. У Б. л. расказвалася пра баявыя поспехі партызан, пра неабходнасць моцнай дысцыпліны і паліт. пільнасці, прапагандаваўся вопыт байцоў і камандзіраў, якія найбольш вызначыліся, асвятляліся розныя бакі побыту партызан. Самая багатая калекцыя Б. л. (каля 1200 экз.) зберагаецца ў *Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.* *Г. Дз. Кнацько.*

**«БЕЙ ФАШЫ́СТСКУЮ ГА́ДИНУ»,** газета, орган Снядаўскага антыфаш. к-та Беластоцкай вобл. Вядомы 1 нумар на рус. мове ад 7.7.1944.

**БЕ́КІШАЎ** Іван Андрэевіч (падп. псеўд. Андрэй; н. 2.6.1913, в. Ноўка Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл.), удзельнік *Віцебскага партыйна-камсамольскага падполля.* Чл. КПСС з 1944. З 1930 на камсам. і сав. рабоце ў Суражскім р-не. У 1941 удзельнічаў у баях з ням. фаш. захопнікамі. Трапіўшы ў акружэнне, пасяліўся ў Віцебску, ствараў падп. групы. У сак. 1942 — ліст. 1943 узначаліў разведвальна-дыверсійную групу на аэрадроме пад Віцебскам. Члены групы забяспечвалі партызан і часці Чырвонай Арміі звесткамі разведкі, здабывалі зброю і медыкаменты, рабілі дыверсіі. З ліст. 1943 у партызанах, пазней у арміі. Пасля вайны на сав. і гаспадарчай рабоце.

**БЕЛАБАРО́ДАЎ** Апанас Паўланцьевіч (н. 31.1.1903, в. Акініна Іркуцкай вобл.), двойчы Герой Сав. Саюза (1944, 1945), ген. арміі (1963). Чл. КПСС з 1926. У Чырвонай Арміі з 1923. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1936). З кастр. 1941 на Зах., Паўд.-Зах., Калінінскім, 1-м Прыбалтыйскім франтах, камандаваў дывізіяй, корпусам, арміяй. Удзельнік *Маскоўскай бітвы 1941—42, Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944,* баёў за Кёнігсберг, разгрому японскай Квантунскай арміі. Пасля вайны на адказных пасадах у Сав. Арміі. Чл. ЦК КПСС у 1966—71. Дэп. ВС СССР у 1950—54, 1966—70. Аўтар кніг «Праз агонь і тайгу» (1969), «Ратны подзвіг» (2 выд. 1973), «Заўсёды ў страі» (1979).

**БЕЛАВУ́САЎ** Андрэй Мінавіч (2.10. 1906, в. Ходасавічы Рагачоўскага р-на — 18.11.1976), поўны кавалер ордэна Славы. У Айч. вайну партызан, з чэрв. 1944 на фронце, сапёр. 14.1.1945 у час прарыву варожай абароны зняў 42 міны, у лют. 1945 на лодцы пераправіў цераз Одэр 400 скрынак боепрыпасаў, 1,5 т прадуктаў; 10.3.1945 з групай байцоў зрабіў 2 праходы ў мінных палях, пры наступленні на захопленым ру-

бяжы паставіў 150 мін; у крас. 1945 зрабіў праходы ў мінных палях, размініраваў шашу ў напрамку г. Франкфурт-на-Одэры, зняў 30 мін, узначаліў групу па будаўніцтву моста цераз канал і забяспечыў своечасовы праход сав. тэхнікі. Пасля вайны жыў на радзіме.

**БЕЛАВУ́САЎ** Канстанцін Міхайлавіч (16.3.1907, в. Юсцінава Себежскага р-на Пскоўскай вобл.— 25.1.1980), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1932. З 1929 у Чырвонай Арміі. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі (1939). У чэрв. 1941 удзельнік абароны Мінска. У партызанах з ліп. 1941; камандзір групы, з сак. 1942 атрада, у ліст. 1942 — ліп. 1943 *партызанскай брыгады 6-й Магілёўскай*, у ліп. 1943 — крас. 1944 *Магілёўскай ваенна-аператыўнай групы*, адначасова ў студз.— крас. 1944 *партызанскага палка 113-га*, чл. Магілёўскага падп. РК КП(б)Б. У 1945—62 на адм.-гаспадарчай рабоце ў Мінску.

**БЕЛАРУ́СКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1944** (кодавая назва «Баграціён»), адна з найбуйнейшых стратэгічных наступальных аперацый Чырвонай Арміі. Праведзена 23.6—29.8.1944. На пачатак аперацыі фронт на Беларусі праходзіў па лініі воз. Нешчарда, на У ад Полацка, Віцебска, Оршы, Магілёва, Жлобіна і далей па р. Прыпяць да Ковеля, утвараючы т. зв. беларускі выступ, павернуты сваёй вяршыняй на У, даўжынёй больш за 1100 км, праз які праходзілі бліжэйшыя шляхі да граніц Германіі.

На тэр. Беларусі вораг стварыў глыбокаэшаланіраваную (250—270 км) абарону (умоўная назва «Фатэрланд»), якая апіралася на развітую сістэму палявых умацаванняў і прыродныя рубяжы (абарончыя палосы праходзілі пераважна па зах. берагах шматлікіх рэк з шырокімі забалочанымі поймамі). Яе ўтрымлівалі група армій «Цэнтр» (ген.-фельдмаршал Э. Буш, з 28 чэрв. ген.-фельдмаршал В. Модэль) у складзе армій 3-й танк., 4-й, 9, 2-й палявых, частка сіл 16-й арміі з групы армій «Поўнач» і левафланговыя злучэнні 4-й танк. арміі з групы армій «Паўночная Украіна» — усяго 63 дывізіі і 3 брыгады, 1,2 млн. чал., 9500 гармат і мінамётаў, 900 танкаў і штурмавых гармат. Наземныя войскі падтрымлівалі 6-ы і частка сіл 1-га і 4-га паветр. флотаў (1350 самалётаў). Для разгрому варожай групоўкі сав. Вярх. Галоўнакамандаванне вылучыла значна большыя сілы — 2,4 млн. чал., больш за 36 тыс. гармат і мінамётаў, 5200 танкаў і самаходных арт. установак, каля 5,3 тыс. самалётаў, якія ўваходзілі ў франты: 1-ы Прыбалтыйскі (ген. арміі І. Х. Баграмян) у складзе армій 4-й ударнай (ген.-лейт. П. Ф. Малышаў), 6-й гвардз. (ген.-лейт. І. М. Чысцякоў), 43-й (ген.-лейт. А. П. Белабародаў), 3-й паветр. (ген.-лейт. авіяцыі М. П. Папівін), 1-га танк. корпуса (ген.-лейт. танк. войск В. В. Буткоў); 3-і Беларускі (ген.-палк., з 26 чэрв. ген. арміі І. Д. Чарняхоўскі) у складзе армій 39-й (ген.-лейт. І. І. Люднікаў), 5-й (ген.-лейт. М. І. Крылоў), 11-й гвардз. (ген.-лейт. К. М. Галіцкі), 31-й (ген.-лейт. В. В. Глаголеў), 5-й гвардз. танкавай (маршал бранятанк. войск П. А. Ротмістраў), 1-й паветр. (ген.-лейт. авіяцыі М. М. Громаў, з 2.7.1944 ген.-палк. авіяцыі Ц. Ц. Хрукін), конна-механізаванай групы (ген.-лейт. М. С. Аслікоўскі), 2-га гвардз. танк. корпуса (ген.-маёр танк. войск А. С. Бурдзейны); 2-і Беларускі (ген.-палк., з 28 ліп. ген. арміі Г. Ф. Захараў) у складзе армій 33-й (ген.-лейт. В. Дз. Кручонкін, з 9.7.1944 ген.-лейт. С. І. Марозаў), 49-й (ген.-лейт. І. Ц. Грышын), 50-й (ген.-лейт. І. В.



Болдзін), 4-й паветр. (ген.-палк. К. А. Вяршынін); 1-ы Беларускі (ген. арміі, з 29.6.1944 Маршал Сав. Саюза К. К. Ракасоўскі) у складзе армій 3-й (ген.-лейт. А. В. Гарбатаў), 48-й (ген.-лейт. П. Л. Раманенка), 65-й (ген.-лейт. П. І. Батаў), 28-й (ген.-лейт. А. А. Лучынскі), 61-й (ген.-лейт. П. А. Бялоў), 70-й (ген.-палк. В. С. Напоў), 47-й (ген.-лейт. М. І. Гусеў), 8-й гвардз. (ген.-палк. В. І. Чуйкоў), 69-й (ген.-лейт. У. Я. Калпакчы), 1-й польскай (ген.-лейт. З. М. Берлінг), 2-й танк. (ген.-лейт. танк. войск І. С. Багданаў, з 23.7.1944 ген.-маёр А. І. Радзіеўскі), 6-й паветр. (ген.-лейт. авіяцыі Ф. П. Палынін), 16-й паветр. (ген.-палк. авіяцыі С. І. Рудэнка), коннамеханізаванай групы (ген.-лейт. І. А. Пліеў), танк. карпусоў — 9-га (ген.-маёр танк. войск Б. С. Бахараў, з 17.7.1944 ген.-маёр танк. войск Н. І. Веейкаў), 1-га гвардз. (ген.-маёр танк. войск М. Ф. Паноў), 11-га (ген.-маёр танк. войск П. М. Рудкін, з 15.7.1944 ген.-маёр танк. войск І. І. Ючшук), кавалерыйскіх карпусоў — 2-га гвардз. (ген.-лейт. У. В. Крукаў), 7-га гвардзейскага (ген.-маёр М. П. Канстанцінаў), Дняпроўскай ваен. флатыліі (капітан 1-га рангу В. В. Грыгор'еў). Да ўдзелу ў аперацыі прыцягваліся таксама авіяцыя далёкага дзеяння (маршал авіяцыі А. Я. Галаванаў) і авіяцыя проціпаветранай абароны. З войскамі цесна ўзаемадзейнічалі партызаны. Дзеянні франтоў каардынавалі Маршалы Сав. Саюза А. М. Васілеўскі (1-га Прыбалтыйскага і 3-га Бел.) і Г. К. Жукаў (2-га і 1-га Бел.). Задача аперацыі — разграміць групу армій «Цэнтр», вызваліць Беларусь, пачаць вызваленне Літвы і Польшчы.

У адпаведнасці з планам Б. а. прадугледжваўся адначасовы прарыў абароны праціўніка на 6 участках з мэтай расчляніць яго войскі і разбіць іх па частках. Асаблівае значэнне надавалася разгрому найбольш моцных флангавых груповак ням.-фаш. войск у раёнах Віцебска і Бабруйска, што забяспечвала ўмовы для імклівага прасоўвання буйных сіл 3-га і 1-га Бел. франтоў і развіцця іх паспяховага наступлення па збежных напрамках на Мінск. Уцалелыя ад разгрому войскі праціўніка планавалася адкінуць на глыбіню 200—250 км у нязручны для абарончых дзеянняў раён пад Мінскам, адрэзаць шляхі адыходу, акружыць і ліквідаваць іх. У далейшым, нарошчваючы ўдары і пашыраючы фронт наступлення, сав. войскі павінны былі выйсці да зах. граніц СССР. Поспех сав. войск на Беларусі прадугледжвалася таксама выкарыстаць для пераходу ў наступленне 2-га і 3-га Прыбалтыйскіх франтоў.

Паводле характару баявых дзеянняў і выкананым задачам Б. а. падзяляецца на 2 этапы. На 1-м этапе (з 23 чэрв. да 4 ліп.) былі праведзены аперацыі: Віцебска-Аршанская, Магілёўская, Бабруйская і Полацкая, у ходзе Мінскай аперацыі вызвалены Мінск і акружана мінская групоўка войск праціўніка.

Раніцай 23.6.1944 гал. сілы 1-га Прыбалтыйскага, 3-га і 2-га Бел. франтоў пасля магутнай арт. і авіяцыйнай падрыхтоўкі перайшлі ў наступленне на Віцебскім, Аршанскім і Магілёўскім напрамках. 24 чэрв. пачалі наступаць войскі 1-га Бел. фронту на Бабруйскім напрамку. За 6 дзён наступлення яны прарвалі абарону праціўніка на глыбіню 100—150 км. Войскі 1-га Прыбалтыйскага фронту ва ўзаемадзеянні з войскамі 3-га Бел. фронту 25—28 чэрв. акружылі і разбілі віцебскую групоўку гітлераўцаў у складзе 5 дывізій. 26 чэрв. вызвалены Віцебск, 28 чэрв.— Лепель. 26 чэрв. войскі 3-га Бел. фронту ліквідавалі магутны вузел абароны на У ад Оршы і 27 чэрв. вызвалілі горад (гл. *Віцебска-Аршанская аперацыя 1944*, *Віцебскі «кацёл»*). Адначасова войскі 2-га Бел. фронту на магілёўскім напрамку фарсіравалі Проню, Басю, Дняпро і 28 чэрв. авалодалі Магілёвам (гл. *Магілёўская аперацыя 1944*). Войскі правага крыла 1-га Бел. фронту нанеслі ўдары з раёна Рагачова і Жлобіна ў напрамку Бабруйск — Асіповічы і з раёна на Пд ад Парыч у напрамку Бабруйск — Слуцк, акружылі і ліквідавалі бабруйскую групоўку ворага ў складзе 6 дывізій, 29 чэрв. вызвалілі Бабруйск (гл. *Бабруйская аперацыя 1944*, *Бабруйскі «кацёл»*). Зламаўшы абарону ворага паміж Зах. Дзвіной і Прыпяццю, сав. войскі рушылі на З. 1-ы Прыбалтыйскі фронт наступаў на Полацк і Глыбокае, 3-і, 2-і і 1-ы Бел. франты вялі наступленне па сустрэчных напрамках на Мінск. Войскі 3-га Бел. фронту 29—30 чэрв. фарсіравалі Бярэзіну, 1 ліп. вызвалілі Барысаў, 2 ліп.— Вілейку, Краснае, адрэзалі 3-ю танк. армію праціўніка ад яго 4-й арміі, перарэзалі чыгунку Мінск — Вільнюс. Войскі 1-га Бел. фронту 30 чэрв. вызвалілі Слуцк, 2 ліп.— Стоўбцы, Гарадзею, 4 ліп.— Нясвіж, перарэзалі чыгунку Мінск —



У штабе 1-га Прыбалтыйскага фронту. Камандуючы фронтам І. Х. Баграмян і начальнік штаба фронту У. В. Курасаў. Чэрвень 1944.



Камандуючы 3-м Беларускім фронтам генерал-палкоўнік І. Д. Чарняхоўскі ставіць баявыя задачы камандуючым арміямі напярэдадні Беларускай аперацыі 1944.



Прадстаўнік Стаўкі Вярхоўнага Галоўнакамандавання Маршал Савецкага Саюза Г. К. Жукаў і камандуючы 1-м Беларускім фронтам Маршал Савецкага Саюза К. К. Ракасоўскі.

Баранавічы. 3 ліп. на світанні ў Мінск увайшлі 2-і гвардз. танк. корпус з У і ПнУ, злучэнні 5-й гвардз. танк. арміі і перадавыя атрады 11-й гвардз. і 31-й армій 3-га Бел. фронту з Пн, у сярэдзіне дня — войскі 1-га Бел. фронту з ПдУ. Да канца дня Мінск поўнасцю вызвалены (гл. *Мінская аперацыя 1944*). На У ад горада сав. войскі акружылі 105-тысячную групоўку ворага са складу 4-й і 9-й ням. армій. Войскі 1-га Прыбалтыйскага фронту ў ходзе *Полацкай аперацыі 1944* вызвалілі 4 ліп. Полацк і разгарнулі наступленне на Шаўляй.

У выніку 1-га этапа Б. а. варожая група армій «Цэнтр» пацярпела катастрафічнае паражэнне, гал. сілы яе былі разбіты. У цэнтры сав.-германскага фронту ўтварыўся 400-кіламетровы пралом, закрыць яго за кароткі час вораг не мог. Сав. войскі атрымалі магчымасць імкліва наступаць на З. На 2-м этапе (з 5 ліп. да 29 жн.) былі ажыццёўлены наступальныя аперацыі: Вільнюская, Беластоцкая, Люблін-Брэсцкая, Шаўляйская і Каўнаская.

Войскі 2-га Бел. і частка сіл 3-га Бел. франтоў з удзелам партызан 8 ліп. вызвалілі Баранавічы, 10 ліп.— Слонім, 14 ліп.— Пінск. Вызваленнем 28 ліп. Брэста (гл. *Люблін-Брэсцкая аперацыя 1944*) закончана выгнанне ням.-фаш. захопнікаў з тэр. БССР. У выніку 2-га этапа Б. а. у канцы жн. сав. войскі выйшлі да Рыгі, на граніцу з Усх. Прусіяй на Нараў і Віслу.

У Б. а. вял. дапамогу Чырвонай Арміі аказвалі партызаны і насельніцтва Беларусі. На пач. лета 1944 на акупіраванай тэр. БССР дзейнічалі 144 партыз. брыгады і 80 асобных атрадаў. Іх удзел у аперацыі «Баграціён» быў прадугледжаны Стаўкай Вярх. Галоўнакамандавання і ўзгоднены з дзеяннямі франтоў. Пры штабах франтоў створаны аператыўныя групы БШПР, каб каардынаваць дзеянні партыз. сіл з войскамі. За 3 дні да пачатку Б. а. партызаны пачалі масавае разбурэнне чыг. камунікацый ворага метадам «рэйкавай вайны» і наносілі ўдары да поўнага вызвалення тэр. БССР. Было падарвана 61 тыс. рэек, 8 чыг. мастоў. У выніку поўнасцю выведзены са строю найб. важныя чыг. лініі, вораг не змог выкарыстаць іх для падвозу рэзерваў, эвакуацыі тылоў і вывазу нарабаванай маёмасці. У канцы чэрв. 1944 ЦК КП(б)Б і ўрад БССР накіравалі партызанам радыёграму з заклікам узмацніць удары па ворагу, які



Камандуючы войскамі 1-га Беларускага фронту генерал арміі К. К. Ракасоўскі і начальнік аператыўнага ўпраўлення фронту генерал-маёр І. І. Байкоў у штабе 1-га Беларускага фронту. Чэрвень 1944.



Маршал Савецкага Саюза А. М. Васілеўскі і маршал бранятанкавых войск П. А. Ротмістраў на пераправе цераз Бярэзіну.

чаў, Лунінец, Асіповічы, Баранавічы, Стоўбцы, Маладзечна, Вілейку, Лагойск, Пінск і інш., удзельнічалі ў ліквідацыі акружаных груповак. У баях з ням. войскамі ў час іх адступлення бел. партызаны знішчылі больш за 15 тыс. і ўзялі ў палон больш за 17 тыс. гітлераўцаў. Удзельнікі камуніст. падполля перадавалі сав. камандаванню звесткі пра абарону праціўніка, паказвалі замініраваныя будынкі, удзельнічалі ў вулічных баях. З вял. патрыятычным уздымам працоўныя Беларусі ўступалі ў Чырвоную Армію: з вызваленай тэр. БССР прызвана 600 тыс. чал., у т. л. 180 тыс. партызан.

У выніку Б. а. поўнасцю вызвалена Беларусь, большая ч. Літвы, ч. Латвіі, усх. раёны Польшчы; Чырвоная Армія падышла да граніц Германіі. У ходзе аперацыі сав. войскі знішчылі цалкам 17 дывізій і 3 брыгады, 50 дывізій страцілі больш за палавіну свайго складу, разграмілі ням. групу армій «Цэнтр». Разгром ням.-фаш. захопнікаў на Беларусі меў вял. значэнне для вызвалення Прыбалтыкі, Зах. Украіны, Польшчы, стварыліся ўмовы для далейшага наступлення сав. войск на тэр. Германіі, для разгортвання

закончылі 11 ліп. ліквідацыю акружанай мінскай групоўкі ням.-фаш. войск — т. зв. *мінскага «катла»*. Гітлераўцы страцілі ў «катле» больш за 70 тыс. забітымі і каля 35 тыс. палоннымі. 17 ліп. 57 600 палонных, узятых пераважна на Беларусі, былі праканваіраваны па вуліцах Масквы. У ходзе наступлення сав. войск былі вызвалены 4 ліп. Смаргонь, 5 ліп. Маладзечна, 9 ліп. Ліда (гл. *Вільнюская аперацыя 1944*), 8 ліп. Навагрудак, 14 ліп. Ваўкавыск, 16 і 24 ліп. Гродна (гл. *Беластоцкая аперацыя 1944*). Пераадольваючы ўпартае супраціўленне праціўніка, сав. войскі адступаў, і наблізіць час перамогі. Партызаны перарэзалі шляхі адступлення праціўніку, зрывалі яго арганізаваны адыход, знішчалі жывую сілу і тэхніку, разбівалі штабы і гарнізоны, захоплівалі масты, пераправы і ўтрымлівалі іх да падыходу сав. войск, самі і разам з войскамі вызвалялі гарады і вёскі, ратавалі насельніцтва ад знішчэння. Партызаны захапілі і пабудавалі новыя масты і пераправы цераз Друць, Ольсу, Пціч, Случ, Бярэзіну, Нёман і інш., да падыходу Чырвонай Арміі вызвалілі раённыя цэнтры Капыль, Старобін, Узду, Куранец, Астравец, Ільлю, Відзы, Свір, Івянец, Карэлічы, Любчу, чыг. ст. Будслаў, Княгініна, Гудагай і інш., разам з часцямі Чырвонай Арміі — Чэрвень, Слуцк, Клі-



Камандуючы 3-м Беларускім фронтам І. Д. Чарняхоўскі (справа), прадстаўнік Стаўкі Вярхоўнага Галоўнакамандавання А. М. Васілеўскі, член ваеннага савета фронту В. Е Макараў. 1944.

**Ганаровыя найменні, нададзеныя злучэнням і часцям у ходзе Беларускай аперацыі 1944**

| Ганаровыя найменні | Колькасць | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | карпусоў | дывізій | брыгад і ўмацаваных раёнаў | асобных часцей | усяго |
| «Аршанскія» | 1 | 8 | 5 | 27 | 41 |
| «Асавецкія» | — | 1 | — | 13 | 14 |
| «Бабруйскія» | 3 | 5 | 5 | 7 | 20 |
| «Баранавіцкія» | 1 | 5 | 2 | 20 | 28 |
| «Барысаўскія» | — | 4 | — | 9 | 13 |
| «Беластоцкія» | — | 1 | 1 | 22 | 24 |
| «Брэсцкія» | 4 | 5 | 9 | 29 | 47 |
| «Ваўкавыскія» | — | 1 | 2 | 8 | 11 |
| «Віленскія» | — | 1 | 3 | 16 | 20 |
| «Віцебскія» | 1 | 24 | 7 | 30 | 62 |
| «Верхнедняпроўскія» | — | 7 | 6 | 19 | 32 |
| «Гродзенскія» | 1 | 1 | — | 15 | 17 |
| «Дэмблінскія» | — | 2 | — | 16 | 18 |
| «Жлобінскія» | — | 1 | 1 | 1 | 3 |
| «Кобрынскія» | — | — | — | 12 | 12 |
| «Ковельскія» | — | 4 | 1 | 4 | 9 |
| «Ковенскія» | 2 | 1 | 1 | 17 | 21 |
| «Лідскія» | — | 1 | — | 3 | 4 |
| «Лунінецкія» | — | — | 1 | 6 | 7 |
| «Люблінскія» | 3 | 1 | 3 | 9 | 16 |
| «Магілёўскія» | — | 3 | 7 | 11 | 21 |
| «Маладзечанскія» | — | 1 | 2 | 10 | 13 |
| «Мінскія» | 2 | 2 | 4 | 44 | 52 |
| «Мітаўскія» | — | — | — | 13 | 13 |
| «Нёманскія» | 6 | 4 | 6 | 29 | 45 |
| «Панявежскія» | — | — | — | 5 | 5 |
| «Пінскія» | — | 2 | 1 | 15 | 18 |
| «Полацкія» | — | 4 | 4 | 23 | 31 |
| «Седлецкія» | 1 | 2 | 1 | 13 | 17 |
| «Слонімскія» | — | 1 | 2 | 8 | 11 |
| «Слуцкія» | — | 1 | 2 | 5 | 8 |
| «Шаўлінскія» | — | 1 | 3 | 6 | 10 |



Салдаты і афіцэры нямецка-фашысцкай арміі, узятыя ў палон у раёне Мінска.

наступальных аперацый англа-амерыканскіх войск, якія 6.6.1944 высадзіліся ў Нармандыі (Паўн. Францыя), адкрылі другі фронт. Радзіма высока ацаніла гераізм воінаў Чырвонай Арміі і народа ў баях за вызваленне Беларусі: больш як 1500 генералам, афіцэрам і салдатам прысвоена званне Героя Сав. Саюза, у ліп.— жн. 1944 ордэнамі і медалямі ўзнаг. больш за 402 тыс. воінаў. Больш за 600 вайсковых часцей і злучэнняў атрымалі *ганаровыя найменні.* Карту гл. на ўклейцы. *У. І. Лемяшонак.*

**«БЕЛАРУ́СКАЯ КРАЁВАЯ АБАРО́НА»** («БКА»), вайсковае фаш.-нацыяналістычнае фарміраванне, якое стваралася з сак. 1944 ням.-фаш. захопнікамі і марыянетачным урадам — «Беларускай цэнтральнай радай» на акупіраванай тэр. Беларусі для барацьбы з партызанамі і войскамі Чырвонай Арміі. Падпольныя парт. і камсам. арг-цыі, партызаны і падпольшчыкі раскрывалі правакацыйны намер гітлераўцаў. Прымусова мабілізаваныя разбягаліся, ішлі ў партызаны.

Гітлераўцам удалося стварыць пераважна са здраднікаў і крымінальных элементаў усяго некалькі падраздзяленняў «БКА» няпоўнага складу, якія разгромлены партызанамі і Чырвонай Арміяй.

**БЕЛАРУ́СКАЯ ЛІТАРАТУ́РА.** Аб магчымасці новай вайны і неабходнасці абараняць сацыялістычныя заваёвы бел. пісьменнікі гаварылі ў 1920—30-я г. (Я. Купала ў вершах «А ў Вісле плавае тапелец...», «Піянерскае», «Чырвонай Арміі паходы», Я. Колас у паэме «На шляхах волі», К. Чорны ў п'есе «Ірынка», Э. Самуйлёнак у аповесці «Тэорыя Каленбрун» і апавяданні «Герой нацыі», А. Куляшоў у паэмах «Баранаў Васіль», «Хлопцы апошняй вайны» і інш.). Яшчэ ў 1935 Купала выказаў прарочыя словы: «...страшная чорная банда захапіла ўладу ў цэнтры Еўропы. Калі своечасова не пераступіць ёй дарогі, калі не спыніць гэтага разбою сярод белага дня — будзе кроў і агонь... Рэкі крыві і агню!» (Такі ён быў. Мн., 1975. С. 258). З першых дзён вайны бел. пісьменнікі выражалі ў сваіх творах масавую свядомасць сав. людзей, якія ўступілі ў барацьбу з фашызмам і верылі ў перамогу над ворагам. 23.6. 1941 у газетах «Звязда» і «Советская Белоруссия» апублікаваны верш Я. Коласа «Шалёнага пса — на ланцуг!». На наступны дзень гэты верш змясціла і газ. «Правда» (на бел. мове). Агульнымі былі пачуцці і думкі, агульнымі былі і словы, што выказвалі іх. «Не будзе беларус рабом нямецкіх баронаў», «Жыла і жыць будзе беларуская зямля!» — так называліся публіцыстычныя артыкулы Купалы і Чорнага, надрукаваныя ў пачатковы перыяд вайны. Не выпадкова супадзенне і назваў вершаў М. Танка і Глебкі «Мы вернемся!».

Пісьменнікі Сав. Беларусі занялі свае баявыя месцы ў страі барацьбітоў супраць фашызму. У пач. вайны амаль усе яны пайшлі на фронт. Адны з іх служылі ў армейскім (у газ. «Знамя Советов» на Калінінскім фронце Куляшоў, газ. «За Родину» на Зах. і 2-м Бел. франтах К. Кірэенка) друку, іншыя (Чорны, П. Броўка, К. Крапіва, М. Лынькоў, П. Панчанка, Танк, А. Астрэйка, Бялевіч, В. Вітка, І. Гурскі, М. Лужанін, М. Машара і інш.) працавалі і друкавалі свае творы ў бел. выданнях *«Савецкая Беларусь», «За Савецкую Беларусь», «За свабодную Беларусь», «Звязда», «Раздавім фашысцкую гадзіну», «Партызанская дубінка».* На акупіраванай тэр. Беларусі выпускаліся падп. газеты (гл. *Друк падпольны*), рукапісныя часопісы, баявыя лісткі, у якіх прымалі ўдзел пісьменнікі Я. Брыль, М. Васілёк, Я. Зазека, М. Засім, А. Іверс, У. Ляўданскі, С. Майхровіч, М. Пянкрат, П. Сушко, В. Таўлай і інш. У барацьбе з ворагам загінулі З. Астапенка, Л. Гаўрылаў, А. Гейнэ, А. Дубровіч, А. Жаўрук, Р. Жалязняк, А. Коршак, С. Крывец, А. Мілюць, А. Пруднікаў, У. Рагуцкі, М. Сямашка, Р. Суніца (Лынькоў), М. Сурначоў, А. Ушакоў, Х. Шынклер. У гады Вял. Айч. вайны літаратура абвергла выслоўе старажытных: «Калі грымяць гарматы, музы маўчаць». Слова пісьменніка стала адным з відаў баявой зброі, яго пяро было прыраўнавана да штыка. Ніколі яшчэ не была такой кароткай часавая дыстанцыя паміж падзея-

мі і іх вобразным адлюстраваннем у публіцыстычных артыкуле, нарысе, вершы, апавяданні. Агульнае злілося з асабістым у адзінае цэлае і ставілася крыніцай натхнення поруч з самымі інтымнымі перажываннямі. Прычына гэтага унікальнага ў гісторыі літаратуры творчага запалу ў тым, што прыйшла пара, паводле слоў Чорнага, «самага важнага, сапраўды цяпер адзінага, ад чаго залежыць усё іншае. Гэта — жалезная неабходнасць сцерці з твару зямлі лютага крывавага звера» (Зб. тв.: У 8 т. Мн., 1975. Т. 8. С. 408). Перш за ўсё на грозныя падзеі адгукнуліся ў сваіх нарысах і публіцыстычных артыкулах Купала, Колас, Чорны, Лынькоў, Куляшоў, Броўка, Танк, Панчанка. Гэта былі ваен. карэспандэнцыі і газетныя нарысы, разгорнутыя абагульняльныя артыкулы і сатырычныя жанры, літаратурныя партрэты герояў вайны і лістоўкі. Менавіта публіцыстыка першай адлюстравала гераізм сав. людзей на фронце і ў тыле ворага, узнавіла карціну нягод, пакут і вял. ахвяр народа. У ёй у поўны рост паўставаў вобраз бел. народа — пераемніка лепшых нацыянальных і рэвалюцыйных традыцый, наследніка і творцы ўсіх матэрыяльных і культурных каштоўнасцей сваёй зямлі. Публіцыстыка стала не толькі спосабам назапашвання матэрыялу для будучых твораў буйнога жанру, але і своеасаблівай творчай лабараторыяй, у якой выпрабоўваліся многія мастацкія ідэі пісьменнікаў. Адзін і той жа жыццёвы матэрыял лёг у аснову купалаўскіх артыкулаў «Народ — месціўца» і «Аб народнай вайне» і яго славутага верша-пракламацыі «Беларускім партызанам». У Чорнага амаль супадаюць нарыс «Народная ненавісць» і апавяданне «Маленькая жанчына». Паводле характару вобразнага і стылявога выяўлення бліжэй за ўсё да публіцыстыкі была агітацыйная паэзія пачатковага перыяду вайны. Пераважна гэта былі вершы-заклікі («Не шкадуйце, хлопцы, пораху...» Танка, «Смялей у бой!» Глебкі, «Мы пойдзем за праўду» Бялевіча), у якіх у паэтычнай форме перадаваліся патрыятычныя пачуцці і думкі нар. мас. Яны нярэдка былі плакатна-рытарычнымі, але, несумненна, адпавядалі крытычнай сітуацыі пачатку вайны. Шмат агульнага з вершамі-заклікамі было ў масавай партыз. паэзіі.

Адначасова з вершамі, што заклікалі народ на барацьбу і ўмацоўвалі яго веру ў перамогу («Зноў будзем шчасце мецъ і волю» Купалы, «Народу-барацьбіту», «Душою і сэрцам мы з вамі, героі» Коласа, «Беларусь» Танка, «Наказ на дарогу» Глебкі), ствараліся вершы, у якіх выказвалася асабіста ўбачанае і перажытае («Голас дарог» Глебкі, «На мінскай шашы» Куляшова, «Смерць героя» Броўкі). Вобраз Беларусі ў гэтых вершах канкрэтызуецца і напаўняецца глыбокім гістарычным сэнсам: родныя пейзажы і карціны мінулага, жудаснае відовішча ваеннага спусташэння, роздумы аб лёсе Радзімы, яе народа і мовы. У Купалы і Коласа гэта абагульнены паэтычны вобраз малой і вял. Радзімы, да якога яны звяртаюцца непасрэдна як да жывой асобы («Паўстаў народ» Купалы, «Мая зямля», «Чымган», «Вясною» Коласа). Броўку прываблівають гераічныя характары беларусаў («Кастусь Каліноўскі», «Надзя-Надзейка»). Гераічны, аптымістычны пачатак у вершах і баладах Куляшова спалучаецца з трагічнымі роздумамі аб стратах («Камсамольскі білет», «Балада аб чатырох заложніках», «Над брацкай магілай», «Ліст з палону»). Прастата і мужнасць — адметныя рысы «ваеннай» музы Глебкі («Пасылка», «Партызаны», «Родны хлеб»). Багаты душэўны свет героя раскрываецца ў вершах Танка («Беларусь», «Родная мова», «Мы ў свой горад прыйшлі», «Здаецца, усё са мной...»), Панчанкі («Айчына мая, радасць мая...», «Герой»), Астрэйкі (у партыз. друкарні ў 1943 выйшаў яго зборнік «Слуцкі пояс»), М. Аўрамчыка, А. Бачылы, Бялевіча, Віткі, А. Вялюгіна, Кірэенкі, Лужаніна і інш. Усю разнастайнасць пачуццяў, што перапаўнялі сэрцы людзей у гады вайны, і перш за ўсё пачуццё любові да роднай, шматпакутнай Беларусі адлюстравала ваен. лірыка бел. паэтаў.



Артылерысты 1-га Беларускага фронту вядуць агонь па ворагу каля р. Заходні Буг. Ліпень 1944.

Разнастайнай была і жанравая карціна бел. ваен. паэзіі — ад баявога лозунга і лірычнага паслання да сатырычнага фельетона. Ніводная бел. газета не абыходзілася без сатыры, да якой ахвотна звярталіся Колас, Крапіва, Астрэйка, Панчанка, Танк, Таўлай. Асаблівую ролю ў развіцці сатыры адыгрываў Крапіва як аўтар вершаў («Фрыцавы трафеі», «Сон Гітлера», «Янка і Карла») і як рэдактар газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну». Пры ўсіх адрозненнях тэм, вобразаў, жанраў і стылю, лірыка, сатыра і эпас былі падпарадкаваны адзінай мэце — разграміць ворага, вызваліць родны край. Яркім сведчаннем мастацкай сталасці бел. паэзіі, яе ўмення перадаць думкі і пачуцці людзей была паэма. Лірычныя перажыванні аўтара ў бел. ваен. паэме арганічна спалучаліся з эпічным адлюстраваннем нар. драмы і нар. подзвігу. Псіхалогію чалавека на вайне, тыповыя паводзіны людзей у тыповых ваен. абставінах пранікнёна раскрыў Куляшоў у паэме «Сцяг брыгады» (1943). Паэтычная карціна гісторыі бел. народа створана ў паэме-маналогу Броўкі «Беларусь» (1943). Шырокая эпічнасць, заснаваная на бытавой канкрэтыцы, характэрна для паэмы Коласа «Адплата» (1945). Аб барацьбе партызан і падпольшчыкаў Зах. Беларусі расказвае гераіка-рамантычная паэма Танка «Янук Сяліба» (1943). Складаныя псіхалагічныя калізіі часоў вайны знайшлі адлюстраванне ў паэме «Эдэм» (1944) Астапенкі. Пачуцці чалавека, што апынуўся ў гады вайны далёка ад маці-радзімы, апяваў Панчанка ў лірычнай паэме «Маладосць у паходзе» (1946) і патрыятычным цыкле «Іранскі дзённік» (1944—47). Бел. паэма гэтага перыяду вызначаецца глыбокім лірызмам і імкненнем да філасофска-псіхалагічнага асэнсавання падзей.

Па гарачых слядах вайны стваралі свае апавяданні бел. празаікі. Большасць з іх пабудавана на дакументальнай аснове і набліжаецца да нарыса («Бацька», «Аксеніны сляды», «Прасторны дом» Чорнага, «Ірына», «Салют», «Васількі», «Астап» Лынькова, апавяданні Гурскага, У. Краўчанкі, А. Стаховіча, А. Якімовіча). Ваеннае апавяданне расказвае аб мужнасці бел. партызан, аб пакутах жанчын і дзяцей. Яго адметныя рысы — напружанасць сюжэту, драматызм канфлікту, рамантычная прыўзнятасць,

лаканізм стылю. У апавяданнях «Смерць», «Вялікае сэрца», «Заўтрашні дзень» Чорны імкнецца да глыбокай псіхалагічнай распрацоўкі і філасофска-гіст. асэнсавання паводзін чалавека на вайне. Тэма бел. гісторыі, нацыянальнага характару — адна з асн. у творчасці гэтага празаіка, аб'ядноўвае ў своеасаблівую трылогію яго раманы «Пошукі будучыні» (1950), «Млечны шлях» (1954), «Вялікі дзень» (1947, няскончаны), У іх паэтызуецца чалавек-працаўнік, што сваёй працай упрыгожвае зямлю, асэнсоўваюцца яго філасофскія адносіны да прыроды, гісторыі, вайны і міру. У той жа час раскрываецца псіхалогія паводзін уласніка ў мірных і ваен. умовах, выкрываецца антычалавечая сутнасць фашызму з яго глабальнай праграмай генацыду. Ваенныя раманы Чорнага, у якіх увасабляюцца філасофскія развагі пісьменніка над шляхамі бел. народа і ўсяго чалавецтва ў «эпоху войн і рэвалюцый» — прыкметная з'ява сав. ваен. прозы. Спробай адлюстраваць ваен. падзеі сталі аповесці «Скіп'ёўскі лес» (1946, няскончана) Чорнага, «Пульс жыцця» (1942) Шынклера, «Шумяць лясы» (1944) Стаховіча, «Лясныя салдаты» (1945) Гурскага, «Помста» (1945) І. Шамякіна. Псіхалагічную драму «Проба агнём» (1943) стварыў Крапіва.

Творчасць бел. пісьменнікаў пасляваен. дзесяцігоддзя была арыентавана на мастацкае пазнанне гіст. заслуг і гераічнай ролі бел. народа ў гады вайны, поўна высокіх дум аб народзе-пераможцу. Гэта шмат у чым вызначыла асн. тып апавядання і асаблівасці вобразнай сістэмы раманаў «Векапомныя дні» (1948—58) Лынькова, «Мінскі напрамак» (1950—52) І. Мележа, «Глыбокая плынь» (1947—48) Шамякіна, «Згуртаванасць» (1949—50) М. Ткачова, «У агні» (1952) Гурскага, «Расстаёмся ненадоўга» (1953—54) А. Кулакоўскага. Разглядаючы героя з боку яго адносін да агульнанар. справы, ствараючы збіральны вобраз народа, пісьменнікі актыўна выкарыстоўвалі эпічныя нацыянальныя традыцыі. У рамане Мележа прыкметнае месца заняў вобраз рэальнага гіст. героя — ген. Чарняхоўскага, у рамане Лынькова — вобразы Заслонава і інш. партыз. важакоў. Імкнучыся да панарамнасці карцін, да густой населенасці героямі, выкарыстоўваючы павышаную эмацыянальнасць і ўрачыстую прыўзнятасць апавядання, аўтары ў большасці выпадкаў пакідалі без увагі псіхалагічны аналіз пачуццяў, думак і ўчынкаў удзельнікаў вайны. Многім з названых твораў не хапала і арыгінальнай мастацка-філасофскай канцэпцыі падзей. У гэтыя ж гады былі створаны апавяданні «Адзін дзень» Брыля, «Такі кароткі водпуск» Кулакоўскага, «Першая атака» М. Лупсякова, якія з'явіліся прадвеснікамі мастацкага абнаўлення ваен. прозы. Той жа працэс набліжэння да праўды жыцця адбываўся і ў паэзіі. Горкія ўспаміны і поўныя ўнутранага драматызму развагі адлюстраваліся ў вершах «Рэпатрыянты», «Трасцянец» Танка, «На полі бою», «Навагодняя ёлка» Куляшова, «Пад'язджаючы да Мінска», «Песня пра чатыры магілы», «На руінах» Панчанкі. Вайна нагадвае аб сабе і ў паэмах «Хлеб» (1946) Броўкі, «Сям'я» (1946) Бялевіча. Мастацкае асэнсаванне ваен. падзей адбывалася ў п'есах «Мілы чалавек» (1945), «З народам» (1948) Крапівы, «Канстанцін Заслонаў» (1948) А. Маўзона, «Брэсцкая крэпасць» (1952) К. Губарэвіча, «Гэта было ў Мінску» (1950) А. Кучара. Аднак новы павеў у бел. літаратуры аб вайне з фашызмам з'яўляецца толькі ў сярэдзіне 1950-х г., калі ў сувязі з рашэннямі XX з'езда КПСС пачалося абнаўленне грамадскай атмасферы ў краіне і самасцвярджэнне чалавечай асобы, непаўторнасці яе духоўнага свету. Твораў гэтага перыяду ўласцівы аўтабіяграфізм пачуццяў і думак, што надавала ім асаблівую дакладнасць і мастацкую пераканаўчасць. Асабістыя ўражанні шматразова ўзмацняюцца за кошт перажытага ўсім народам у лірыцы Танка («Дзе яны», «Стары мост», «З гільзы пустой...»), Броўкі («Мёртвая вёска», «Вы чулі, як плачуць дрэвы?»), Лужаніна («Апошняя куля»), Зарыцкага («Мая бяссоніца»), С. Дзяргая («Акупацыя»), А. Пысіна («Іван-чай», «Далёкі тупат кананады...», «Мінута маўчання»). Сваё слова аб перажытым сказалі «дзеці вайны» — паэт С. Гаўрусёў, Н. Гілевіч, Е. Лось, А. Лойка, А. Вярцінскі, М. Арочка, У. Караткевіч, П. Макаль, Р. Барадулін, Г. Бураўкін, Ю. Свірка, К. Цвірка. Ажыўленне памяці аб героіцы і трагедыях вайны, паглыбленне грамадзянскай свядомасці, лірызацыя і драматызацыя жанраў адбываецца ў паэме [«Голас сэрца» (1960) Броўкі, «Блакада» (1969) Барадуліна, «Сто вузлоў памяці» (1965) Гілевіча, «Мацярык маленства» (1969) В. Макарэвіча, «Штодзённы лістапад» (1960) Гаўрусёва, «Навальнічны раён» (1969) Тармолы].

Сапраўднае мастацкае адраджэнне ў сярэдзіне 1950-х г. атрымала проза аб вайне. У ёй усё мацней адчуваецца імкненне сказаць усю праўду пра сав. чалавека на вайне, глыбока раскрыць псіхалогію яго паводзін, вытокі нар. подзвігу, выявіць агульначалавечы сэнс здзейсненага, паказаць сапраўдныя маштабы нар. трагедыі. Гэта імкненне ўзмацнялася і за кошт звароту да класічных традыцый ў паказе вайны. З вышыні прайшоўшага пасляваен. дзесяцігоддзя занава ацэньваюць асабіста перажытае Шамякін у пенталогіі «Трывожнае шчасце» (1957—65), Брыль у рамане «Птушкі і гнёзды» (1963), Карпюк у аповесці «Дапута» (1959), В. Быкаў у аповесці «Жураўліны крык» (1960), А. Адамовіч у раманах «Вайна пад стрэхамі» (1960), «Сыны ідуць у бой» (1963), І. Навуменка ў трылогіі «Сасна пры дарозе» (1962), «Вецер у соснах» (1967), «Сорак трэці» (1973). Гэтыя творы сведчылі аб тым, што літаратура аб вайне рашуча пазбаўлялася ранейшых дагматычных уяўленняў, прывычных схематызму і ілюстрацыйнасці, што жанравая і стылёвая разнастайнасць станавілася эстэтычным законам яе развіцця і існавання. Пенталогія Шамякіна ўразіла чытача праўдзівасцю інтанацый і глыбока рэалістычным бачаннем вайны. Багаты духоўны свет беларуса, які апынуўся па волі злога лёсу ў шматнацыянальным натоўпе ваеннапалонных у самым цэнтры фаш. Германіі, узноўлены ў рамане Брыля. З адчуваннем, што аплачаныя дарагой цаной урокі вайны спатрэбяцца будучым пакаленням, жывуць і змагаюцца юныя падпольшчыкі і партызаны Адамовіча і Навуменкі. Суровая, непрадузятая праўда ў паказе вайны, яе найбольш драматычныя сітуацыі, засяроджанасць на даследаванні глыбінных рухаў у чалавечай душы, маральны максімалізм, мужныя інтанацыі прыцягвалі ўвагу чытача да аповесцей Быкава «Здрада» (1961), «Трэцяя ракета» (1962), «Пастка» (1964), «Мёртвым не баліць» (1965), «Праклятая вышыня» (1968).

З сярэдзіны 1960-х г. намеціўся новы паварот у адносінах бел. пісьменнікаў да падзей ваен. пары. З аднаго боку, адбывалася паступовае накапленне дакументальнага матэрыялу, якое працягвалася да апошняга часу [«Я з вогненнай вёскі...» (1975) Адамовіча, Брыля, У. Калесніка, дакументальныя аповесці І. Новікава, «У вайны не жаночы твар...», «Апошнія сведкі» (1985) С. Алексіевіч, «Браніслава» (1985) С. Панізніка], з другога — імкненне да філасофска-канцэптуальнага асэнсавання асабіста бачанага і перажытага, да вырашэння на матэрыяле вайны вострых праблем сучаснасці. Народная праўда аб вайне патрабавала комплекснага падыходу да прадмета даследавання, творчых намаганняў многіх пісьменнікаў па мастацкім асваенні велізарнага мацерыка, якім з'явіліся 1418 дзён вайны з фашызмам. Гераізм бел. народа, які апынуўся ў трагічных умовах акупацыі, яго гіст. драма, калі вырашалася пытанне аб існаванні цэлай нацыі, заклікала да больш сур'ёзнага і паглыбленага вобразнага даследавання праблемы «чалавек і вайна». Трагічныя бакі існавання нацыі ва ўмовах акупацыі і генацыду раскрывалі, кожны ў адпаведнасці з сваім жыццёвым вопытам і творчымі магчымасцямі, І. Пташнікаў у аповесцях «Тартак» (1968) і «Найдорф» (1975), Б. Сачанка ў аповесці «Апошнія і першыя» (1966), Адамовіч у «Хатынскай аповесці» (1972) і «Карніках» (1980), Л. Арабей у раманах «Іскры ў папялішчы» (1969), «Сузор'е Вялікай Мядзведзіцы» (1980), А. Марціновіч у раманах «Не шукай слядоў сваіх» (1979), «Груша на Голым Полі» (1985), В. Хомчанка ў рамане «Вяртанне ў агонь» (1978), Навуменка ў рамане «Смутак белых начэй» (1979), Шамякін у аповесці «Гандлярка і паэт» (1976), А. Макаёнак у п'есе «Трыбунал» (1970). Аб драматычным лёсе свайго пакалення расказалі бел. пісьменнікі, чыё дзяцінства прайшло ў гады вайны: М. Стральцоў, І. Чыгрынаў, Караткевіч, В. Казько, В. Адамчык, Я. Сіпакоў, У. Паўлаў, У. Дамашэвіч, П. Місько. Адзін толькі дзень з жыцця маленькага хлопчыка ўспамінае герой аповесці Стральцова «Адзін лапаць, адзін чунь» (1970). Дзень за днём, падрабязна і дакладна аднаўляе тагачасны акупацыйны быт Чыгрынаў у трылогіі «Плач перапёлкі» (1970), «Апраўданне крыві» (1976), «Свае і чужынцы» (1983). Толькі асобныя, самыя яркія і самыя ўражальныя эпізоды часоў вайны выхоплівае з мінулага памяць герояў аповесцей Казько «Высакосны год» (1974), «Суд у Слабадзе» (1978). Але ва ўсіх гэтых творах змяшчаюцца унікальныя сведчанні апошніх відавочцаў самай страшнай з войн. У лепшых творах бел. ваен. празаікаў імкненне аднавіць дакладную псіхалагічную карціну паводзін чалавека і народа на вайне спалучаецца з імкненнем да філасофскага асэнсавання праблем, якія хвалююць чалавецтва. У бел. ваен. прозе апошніх гадоў нараджаецца і ўмацоўваецца жанр дакументальнай «народнай кнігі», правобразам якой была кніга «Я з вогненнай вёскі...», а таксама філасофска-фантастычны жанр рамана — «папярэджання» («Катастро-

фа» Э. Скобелева, 1984, «Апошняя пастараль» Адамовіча, 1987).

Цэлай эпохай у развіцці бел. і ўсёй сав. ваен. прозы з'явілася творчасць Быкава, пісьменніка, нязменна вернага ваен. тэме і паслядоўнага ў сваім наступленні на «бастыён ісціны». Зварот пісьменніка ў канцы 1960-х г. да новага для яго матэрыялу партыз. і падп. барацьбы («Круглянскі мост», 1969, «Сотнікаў», 1970, «Абеліск», 1971) азнаменаваў новы паварот усёй бел. прозы аб Вял. Айч. вайне ў мастацкім асэнсаванні мінулага і сучаснасці. Гэты матэрыял даваў літаратуры вял. выбар драматычных сітуацый, у якіх ва ўвесь рост паўставаў чалавек на вайне, мацней выяўляўся элемент трагічнага. «Знакі бяды», якія расставіла гісторыя на цяжкіх дарогах народа ў будучыню, знакі папярэджання, якія не павінны ігнараваць цяперашнія пакаленні, пісьменнік паказвае і ў іншых творах «партызанскага цыкла» («Воўчая зграя», 1974, «Пайсці і не вярнуцца», 1978, «Знак бяды», 1982, «Кар'ер», 1986, «У тумане», 1987, «Аблава», 1989), у аповесцях з франтавога жыцця («Дажыць да світання», 1973, «Яго батальён», 1975). У гэтых творах Быкаў застаецца верным сваёй манеры, пазнавальным, але ў той жа час і заўсёды новым, іншым: не спяшаючыся, паслядоўна ён праварочвае перад чытачом новыя і новыя «франтавыя старонкі» вял. нар. эпапеі гераічнай трагедыі, даючы яму надзвычай рэдкую магчымасць уважліва ўчытацца ў нягаснучыя радкі аб нар. подзвігу, асэнсаваць мінулае ў кантэксце зменлівага свету. Пісьменнік упэўнена вядзе чытача ад бытавой паверхні ваен. падзей у глыбіні маральнай і філасофскай праблематыкі, якія хаваюцца пад гэтай паверхняй. Вайна ў яго творах паказваецца як своеасаблівая «лабараторыя», у якой гісторыя ставіла «эксперыменты» на чалавечнасць чалавека, на яго здольнасць мужна вынесці ўсе выпрабаванні, выжыць у экстрэмальных умовах і перамагчы ворага, што ўвасабляў усё нізкае ў чалавечай прыродзе і перашкаджаў руху чалавецтва па шляху прагрэсу. На найважнейшыя і найвастрэйшыя пытанні сучаснасці, ці варты чалавек лепшай долі, ці здольны ён паўстаць над уласнымі слабасцямі і памылкамі, страсцямі і бясконца растучымі запатрабаваннямі, Быкаў адказвае вельмі выразна і недвухсэнсоўна: так, варты! Так, здольны! Адсюль і прыхільнасць пісьменніка да вострых маральна-этычных калізій, якіх з лішкам падаравала практыка XX стагоддзя, да тых самых «пагранічных сітуацый», у якія ставіць жыццё яго герояў, раскрываючы кожны раз у іх такія глыбіні, аб існаванні якіх яны і не падазравалі, да мэтанакіраванага даследавання ўсіх важнейшых этапаў і паваротаў чалавечых пачуццяў і думак, да пошуку глыбінных заканамернасцей чалавечага быцця, да філасофска насычанай праблематыкі. У творчасці Быкава сучаснае чалавецтва сустракаецца з дагэтуль невядомым яму народам, з непаўторным гістарычным вопытам гэтага народа, з нацыянальна-своеасаблівым поглядам на многія праблемы, якія хвалююць сёння людзей Зямлі. Дзякуючы творчасці Быкава бел. ваен. проза выклікала велізарную цікавасць да сябе з боку сусв. чытача і атрымала міжнар. прызнанне.

У бел. літаратуры аб Вял. Айч. вайне апошніх гадоў намячаецца новы паварот у эстэтычным асэнсаванні мінулага. Ён выяўляецца і ў колькасным папаўненні радоў пішучых аб вайне (па Беларусі амаль няма пісьменнікаў, якія так ці інакш не закранalі б у сваёй творчасці гэтай тэмы), і ў якасных зменах. Узбагачаецца матэрыял мастацкага даследавання (раман М. Аўрамчыка «Падзямелле», 1983), здзяйсняюцца спробы новага прачытання паэтамі ўжо вядомага матэрыялу («Замошская рота» Паўлава, «Поле» Макаля, «Балада Брэсцкай крэпасці» Барадуліна, «Іх апошняя воля» Вярцінскага, «Смага» У. Скарынкіна, «Мадонна» Сіркі), да тэмы вайны звяртаюцца паэты, празаікі, драматургі, што нарадзіліся ўжо пасля вайны (А. Разанаў, Я. Янішчыц, Р. Баравікова, Т. Бондар, У. Карызна, А. Жыгуноў, А. Дудараў, А. Наварыч, У. Някляеў).

*М. А. Тычына.*

**«БЕЛАРУ́СКАЯ НАРО́ДНАЯ САМАПО́МАЧ»** («БНС»), антысавецкая нацыяналіст. арг-цыя на акупіраванай тэр. Беларусі. Створана ням.-фаш. захопнікамі ў кастр. 1941 з мэтай умацавання акупац. рэжыму, барацьбы з сав. патрыётамі, заняволення бел. народа і рабавання яго нацыянальных багаццяў.

Кіраўнікі «БНС» і іх мясцовыя органы (акруговыя, раённыя і валасныя аддзелы) памагалі фашыстам вывозіць у Германію насельніцтва, рабаваць матэрыяльныя і культурныя каштоўнасці Беларусі.

**«БЕЛАРУ́СКАЯ РА́ДА ДАВЕ́РУ ПРЫ ГЕНЕРА́ЛЬНЫМ КАМІСАРЫЯ́ЦЕ БЕЛАРУ́СІ»,** антысавецкая арг-цыя, створаная гітлераўцамі ў акупіраванай Беларусі ў чэрв. 1943. Складалася з бел. буржуазных нацыяналістаў. Практычная дзейнасць яе зводзілася да распрацоўкі прапаноў, як задушыць і ўціхамірыць бел. народ, які змагаўся супраць ням.-фаш. акупантаў, і рабаваць яго нацыянальныя багацці. У снеж. 1943 пераўтворана ў *«Беларускую цэнтральную раду»*.

**«БЕЛАРУ́СКАЯ ЦЭНТРА́ЛЬНАЯ РА́ДА»** («БЦР»), марыянетачны ўрад, створаны ням.-фаш. захопнікамі ў снеж. 1943 на акупіраванай тэрыторыі Беларусі. Складалася з памагатых гітлераўцаў — бел. буржуазных нацыяналістаў на чале з Р. *Астроўскім.*

Члены «БЦР» памагалі акупантам весці барацьбу з партыз. рухам, спрабавалі стварыць з бел. насельніцтва фаш.-нацыяналіст. фарміраванні, т. зв. «Беларускую краёвую абарону».

**«БЕЛАРУ́СКАЯ ШКО́ЛА»,** Беларуская школа падрыхтоўкі партызанскіх кадраў БШПР. Створана 28.11.1942 пры ЦК КП(б)Б на базе *Асобага беларускага збору.* Напярэдадні (26.11.1942) Дзярж. Камітэт Абароны зацвердзіў штат: 48 ваеннаслужачых і 33 вольнанаёмныя. Размяшчалася на ст. Сходня Хімкінскага р-на Маскоўскай вобл. Камплектавалася пераважна камуністамі і камсамольцамі. Начальнік — сакратар ЦК КП(б)Б М. І. *Прохараў.* Вяла падрыхтоўку парт. і камсам. работнікаў — арганізатараў партыз. атрадаў, інструктараў мінна-падрыўной справы, падрыўнікоў, разведчыкаў, рэдактараў, паліграфістаў, наборшчыкаў. Тэрмін абучэння —20 дзён, з канца 1942—2 месяцы. У школе адначасова абучаліся 200, з чэрв. 1943— каля 170 курсантаў. Тэарэтычны курс быў цесна звязаны з практычным абучэннем, набліжаным да баявой абстаноўкі. З снеж. 1942 да 10.5.1943 пры аператыўнай групе БШПР на Калінінскім фронце падрыхтоўкай партыз. кадраў займаўся прыфрантавы філіял «Б. ш.» (нач. Ф. П. Ільюшэнкаў, потым капітан Федзюшэнкаў). Тут вялося абучэнне партызан, якія выйшлі па розных прычынах у сав. тыл. У асн. рыхтавалі спецыялістаў дыверсійна-падрыўной справы, у т. л. інструктараў. Пасля праходжання падрыхтоўкі атрады, групы і асобныя партызаны накіроўваліся ў тыл праціўніка. З 15.12.1942 да 15.9.1943 у «Б. ш.» прайшлі абучэнне 529 чал. За гэты час у тыл ворага накіравана 112 парт. работнікаў і арганізатараў партыз. атрадаў, 50 камсам. работнікаў, 12 рэдактараў, 40 паліграфістаў-наборшчыкаў, 90 разведчыкаў, 24 інструктары мінна-падрыўной справы, 129 падрыўнікоў. Сфарміравана і паслана ў тыл ворага 2 партыз. атрады (97 чал.) і 6 груп (69 чал.). Больш як 280 чал., у т. л. 240 адказных работнікаў, накіраваны ў адзіночным парадку. Усяго ў «Б. ш.» для арганізацыі партыз. руху на Беларусі падрыхтавана 636 чал., у філіяле —310 чал. 18.9.1943 «Б. ш.» пераўтворана ў вучэбна-рэзервовы пункт пры БШПР з лікам курсантаў 110, потым 80 чал. Тут вялася падрыхтоўка інструктараў мінна-падрыўной справы, падрыўнікоў, разведчыкаў, хімінструктараў, паліграфістаў-наборшчыкаў, вадалазаў, перападрыхтоўка радыстаў. У вучэбна-рэзервовым пункце з 18.9.1843 да 1.1.1944 прайшлі абучэнне 188 чал., у т. л. 30 інструктараў мінна-падрыўной справы, 22 падрыўнікі, 32 разведчыкі, 23 хімінструктары, 12 паліграфістаў-наборшчыкаў, 11 вадалазаў, перападрыхтоўку прайшлі 58 радыстаў. Кадры, падрыхтаваныя ў «Б. ш.» і яе філіяле, зрабілі вял. ўклад у павышэнне эфектыўнасці баявых дзеянняў партыз. сіл у тыле ворага. *У. М. Якубоўскі.*

**БЕЛАРУ́СКІ ДЗЯРЖА́ЎНЫ МУЗЕ́Й ГІСТО́РЫІ ВЯЛІ́КАЙ АЙЧЫ́ННАЙ ВАЙНЫ́.** Заснаваны 30.9.1943, адкрыты ў Мінску 7.11.1944. Мае 31 экспазіцыйную залу, пл. экспазіцыі 3600 м$^2$, больш за 120 тыс. экспанатаў, у т. л. 94 344 асн. фонду. Экспазіцыя тэматычна падзяляецца на раздзелы: падзеі на франтах у 1-ы перыяд вайны (чэрв. 1941 — ліст. 1942); акупацыйны рэжым і злачынствы ням.-фаш. захопнікаў на Беларусі, зараджэнне партыз. руху і дзейнасць падп. арг-цый на Беларусі; сав. тыл — фронту; карэнны пералом у ходзе вайны (ліст. 1942— канец 1943); усенародная партыз. барацьба на Беларусі ў 1943—44; падзеі на франтах у 1944; вызваленне Беларусі; вызваленчая місія Чырво-

най Арміі, разгром і капітуляцыя фаш. Германіі і імперыялістычнай Японіі; мемар. залы. Расказваецца пра гераічную абарону Брэсцкай крэпасці ў 1941 (фрагмент сцяны з патрыятычным надпісам, аплаўленыя цагліны крэпасці, абгарэлыя ўліковыя карткі воінаў-камсамольцаў, гімнасцёрка і камсам. білет А. Ф. *Наганава*), пра подзвіг М. Ф. *Гастэлы* (фотапартрэты членаў экіпажа, іх пасмяротныя ўзнагароды, рэшткі самалёта, бюст героя), подзвіг воінаў 100-й стралк. дывізіі, якая абараняла Мінск (дыярама «Бой каля Астрашыцкага Гарадка»), пра абарону Магілёва (дыярама «Абарона Магілёва»). Матэрыялы аб удзеле воінаў-беларусаў у абароне Масквы, Ленінграда, Сталінграда, Адэсы і інш. гарадоў (асабістыя рэчы, дакументы, фатаграфіі Герояў Сав. Саюза Л. М. *Даватара,* Ф. А. *Смалячкова,* І. І. *Казлоўскага,* віцэ-адмірала В. П. *Драздa*, ген.-лейт. І. П. *Камеры* і інш.). Экспануюцца баявыя сцягі 56-й ворага, самаробная зброя, у т. л. зенітка і гармата на калёсах ад сеялкі, прыстасаванне для спуску пад адхон варожых эшалонаў, самаробныя міны, прадметы быту партызан, макеты падп. друкарні, партыз. збройнай майстэрні, аперацыі па падрыву моста, рукапісныя часопісы і насценгазеты, баявыя лісткі і лістоўкі, у т. л. на бяросце, вял. колькасць падп. газет, у т. л. газ. *«Звязда»*, якая выдавалася ў Мінску ў 1942, парт. і камсам. дакументы партызан і падпольшчыкаў, перадсмяротныя пісьмы загінуўшых, самаробныя медалі «За храбрасць» і «За заслугі» партыз. брыгады імя Ракасоўскага, баявыя сцягі партыз. брыгад і атрадаў.

Шматлікія матэрыялы расказваюць пра арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху на Беларусі: І. П. *Ганенку*, П. З. *Калініна*, К. Т. *Мазурава*, П. К. *Панамарэнку*, Герояў Сав. Саюза В. І. *Казлова*, В. З. *Каржа*, У. Е. *Лабанка*, Р. Н. *Мачульскага*, П. М. *Машэрава*, актыўных удзельнікаў партыз. барацьбы Герояў Сав. Саюза А. С. *Азончыка*, Ц. П. *Бумажкова*, В. І. *Драздовіча*, К. С. *Заслонава*, А. Ф. *Колесаву*, Ф. І. *Паўлоўскага*, В. Я. *Чарнышова*, П. М. *Шмырова* і інш., пра баявую дзейнасць і подзвігі падпольшчыкаў *соўскага;* фатаграфіі і ўзнагароды военачальнікаў П. І. *Батава*, Б. С. *Бахарава*, А. В. *Гарбатава*, А. А. *Лучынскага*, П. А. *Ротмістрава* і інш. Матэрыялы пра сыноў братніх народаў СССР, якія аддалі жыццё ў баях за Беларусь, у т. л. Герояў Сав. Саюза А. Анаева, Д. Асаналіева, Ф. Ц. Блахіна, П. М. Рака, Ю. В. Смірнова, Г. Якубава і інш. Фатаграфіі, дакументы, узнагароды, асабістыя рэчы землякоў, якія вызначыліся ў баях на тэр. Венгрыі, Польшчы, Румыніі, Чэхаславакіі, Германіі, двойчы Герояў Сав. Саюза П. Я. *Галавачова*, С. Ф. *Шутава*, Герояў Сав. Саюза П. І. *Гучка*, В. М. *Калеснікава*, У. С. *Лаўрыновіча*, П. П. *Нікіфарава*, Ф. І. *Перхаровіча*, А. М. *Пінчука*, В. В. *Скрыганава*, В. А. *Тумара*, Г. М. *Халасцякова* і інш.

Анфіладу мемар. залаў адкрывае зала Перамогі, дзе экспануюцца штандарты 10 франтоў — удзельнікаў Парада Перамогі 1945. У мемар. залах адлітыя ў метале назвы 987 вайсковых злучэнняў і часцей 1-га, 2, 3-га Бел. і 1-га Прыбалтыйскага франтоў, атрымаўшых ганаровыя найменні бел. гарадоў і рэк, 203 парт. і 224 камсам. органаў, 258 самастойных атрадаў і 997 атрадаў, аб'яднаных у 213 партыз. брыгад, што дзейнічалі на акупіраванай тэр. Беларусі, імёны



Экспазіцыя «Акупацыйны рэжым». Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.



Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. У адной з залаў, прысвечаных партызанскаму руху на Беларусі.

стралк. дывізіі і 84-га арт. палка, выратаваныя жыхарамі Талачынскага і Лепельскага р-наў. У зале «Акупацыйны рэжым і злачынствы фашыстаў на тэр. Беларусі» экспануюцца атрыбуты з месца масавага знішчэння людзей «Малы Трасцянец»: будка вартавога, бярвёны, на якіх спальвалі людзей, асабістыя рэчы закатаваных сав. грамадзян, урна з астанкамі вязняў; дыяпазітывы месцаў масавага знішчэння сав. людзей у Бабруйску, Віцебску, Масюкоўшчыне, Азарычах і інш.; дакументы аб рабаванні і вывазе гіст. і культурных каштоўнасцей.

У залах, прысвечаных падп. і партыз. барацьбе бел. народа ў тыле Герояў Сав. Саюза І. К. *Кабушкіна*, І. П. *Казінца*, М. А. *Кедышкі*, Я. У. *Клумова*, Л. Дз. *Лорчанкі*, А. Р. *Мазаніка*, У. С. *Амельянюка*, М. В. *Осіпавай*, Н. В. *Траян*, В. З. *Харужай* і інш. Аб *Беларускай аперацыі 1944* расказваюць электрыфікаваная агучаная карта, дыярама «Мінскі «кацёл», якая адлюстравала подзвігі артылерыста А. К. Аўдзеева, лётчыка М. І. Кірэева, сувязісткі Т. М. *Барамзіной*, разведчыка М. І. Глотава і інш. Экспануюцца: падзякі Вярх. Галоўнакамандуючага воінам, якія вызначыліся ў баях за Бабруйск, Мінск, Магілёў, Оршу, Полацк; сцяг, узняты 3.7.1944 над будынкам тэатра імя Я. Купалы ў Мінску; матор самалёта французскага лётчыка Ж. Гастона з палка Нармандыя — Нёман»; асабістыя рэчы Маршалаў Сав. Саюза І. Х. *Баграмяна* і К. К. *Рака*2169 Герояў Сав. Саюза і поўных кавалераў ордэна Славы — беларусаў, ураджэнцаў рэспублікі, сыноў братніх народаў і грамадзян замежных краін, якія вызначыліся на бел. зямлі. У асобнай зале экспануецца серыя мастацкіх палотнаў нар. мастака СССР М. Савіцкага «Лічбы на сэрцы» аб злачынствах фашыстаў у канцлагерах. Сярод экспанатаў агучаныя дыярамы і карты-схемы, магнітафонныя запісы, дакументальныя фільмы, карціны «Абарона Брэсцкай крэпасці ў 1941» (маст. Я. Зайцаў), «Камсамольцы», «Лаўскі бой» (маст. М. Савіцкі), «Подзвіг Івана Цубы», «Нарада партызанскіх камбрыгаў» (маст. А. Кроль), «Гарадь эшалоны»,

«Засада» (маст. М. Абрыньба), скульптурная кампазіцыя «Загінуўшых чакаюць вечна» (скульпт. М. Кандрацьеў) і інш. На спец. пляцоўцы ў двары музея экспануюцца ўзоры баявой тэхнікі і ўзбраення Чырвонай Арміі перыяду вайны. Ва ўрачыстай зале музея адбываюцца піянерскія зборы і лінейкі, прыём у піянеры і камсамол, сустрэчы моладзі з ветэранамі вайны, тут маладыя воіны прымаюць прысягу на вернасць Радзіме. Штогод музей наведваюць больш за 400 тыс. чал. Філіялы: мемарыяльны комплекс *Хатынь, Курган Славы Савецкай Арміі — вызваліцельніцы Беларусі, Музей Обальскага камсамольскага падполля, Расонскі музей баявой садружнасці, Лоеўскі музей бітвы за Дняпро.* *Г. І. Баркун.*

**БЕЛАРУ́СКІ ФРОНТ.** Створаны паводле рашэння Стаўкі ВГК ад 20.10.1943 (у выніку перайменавання Цэнтральнага фронту).

Першапачаткова ў склад фронту ўваходзілі арміі: 3-я (ген.-лейт. А. В. *Гарбатаў*), 48 (ген.-лейт. П. Л. *Раманенка*), 50 (ген.-лейт. І. В. *Болдзін*), 61 (ген.-лейт. П. А. *Бялоў*), 63 (ген.-лейт. У. Я. *Калпакчы*), 65 (ген.-лейт. П. І. *Батаў*), 16-я паветраная (ген.-лейт. С. І. *Рудэнка*), пасля — 10-я (ген.-лейт. В. С. *Папоў*), 11 (ген.-лейт. І. І. *Фядзюнінскі*), 47 (ген.-лейт. М. І. Гусеў), 69 (ген.-лейт. В. Дз. *Кручонкін*, з 4.4.1944 Калпакчы), 70-я (ген.-лейт. В. С. Папоў) і *Дняпроўская ваенная флатылія* (капітан 1-га рангу В. В. Грыгор'еў). 17.2.1944 у сувязі з утварэннем на ковельскім напрамку *Беларускага фронту 2-га* (1-га фарміравання) Б. ф. перайменаваны ў *Беларускі фронт 1-ы*. 5.4.1944 у сувязі са скасаваннем 2-га Бел. фронту Б. ф. аднаўлены, 16.4.1944 зноў перайменаваны ў 1-ы Бел. фронт.




**Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Зала Перамогі.**

У кастр. 1943 войскі Б. ф., выкарыстоўваючы захопленыя плацдармы на зах. берагах рэк Проня і Сож, перайшлі ў наступленне на гомельска-бабруйскім напрамку; на працягу 2-й пал. кастр. і пач. ліст. стварылі пагрозу ахопу 2-й ням. арміі з Пд і вялі баі за расшырэнне плацдармаў на р. Дняпро. 10.11.1943 з плацдармаў на Дняпры на Пд ад Лоева перайшлі ў наступленне войскі левага крыла фронту (гл. *Гомельска-Рэчыцкая аперацыя 1943*). 26 ліст. вызвалены Гомель. Да пач. снеж. войскі Б. ф. выйшлі на рубеж Петухоўка — Новы Быхаў — У ад Рагачова і Мазыра — Прыпяць. Тут фронт стабілізаваўся да 1944. У студз. — лют. 1944 войскі Б. ф. правялі *Калінкавіцка-Мазырскую аперацыю 1944,* у ходзе якой вызвалілі Калінкавічы, Мазыр і інш. населеныя пункты і, прасунуўшыся на 15—60 км, выйшлі на рубеж Дуброва — Азарычы — Млынок і перайшлі да абароны.

Камандуючы: ген. арміі К. К. *Ракасоўскі,* чл. Ваен. савета ген.-лейт. К. Ф. Цялегін, нач. штаба ген.-палк. М. С. *Малінін.* *М. І. Камінскі.*

**БЕЛАРУ́СКІ ФРОНТ 1-ы.** Створаны паводле рашэння Стаўкі ВГК ад 17.2.1944 (у выніку перайменавання *Беларускага фронту*) на бабруйскім і брэсцка-люблінскім напрамках. 5—16.4.1944 наз. Бел. фронтам.

Першапачаткова ў склад фронту ўваходзілі арміі: 3-я (ген.-лейт., з 29.6.1944 ген.-палк. А. В. *Гарбатаў*), 10 (ген.-лейт., В. С. *Папоў*), 48 (ген.-лейт., з 15.7.1944 ген.-палк. П. Л. *Раманенка*), 50 (ген.-лейт., з 15.7.1944 ген.-палк. І. В. *Болдзін*), 61 (ген.-лейт., з 26.7.1944 ген.-палк. П. А. *Бялоў*), 65 (ген.-лейт., з 29.6.1944 ген.-палк. П. І. *Батаў*), 16-я паветраная (ген.-лейт., з 11.5.1944 ген.-палк. С. І. *Рудэнка*). У далейшым у склад фронту ўваходзілі арміі: 28-я (ген.-лейт. А. А. *Лучынскі*), 33 (ген.-лейт. В. Дз. *Кручонкін,* з 9.7.1944 ген.-лейт. С. І. Марозаў, з кастр. 1944 ген.-палк. В. Дз. *Цвятаеў*), 47 (ген.-лейт. М. І. Гусеў, з 17.11.1944 ген.-маёр Ф. І. *Перхаровіч*), 69 (ген.-лейт., з 2.11.1944 ген.-палк. У. Я. *Калпакчы*), 70-я (ген.-палк. В. С. Папоў), 8-я гвардз. (ген.-палк. В. І. *Чуйкоў*), 3-я (ген.-лейт. М. П. Сіманяк, з сак. 1945 ген.-палк. В. І. *Кузняцоў*) і 5-я (ген.-лейт., з 20.4.1945 ген.-палк. М. Э. Берзарын) ударныя, 1-я (ген.-палк. М. Я. Катукоў) і 2-я (ген.-палк. С. І. *Багданаў,* з 23.7.1944 ген.-лейт. А. І. *Радзіеўскі,* з студз. 1945 Багданаў) гвардз. танкавыя, 6-я паветр. (ген.-лейт. Ф. П. *Палынін*), 1-я (ген.-лейт. З. М. *Берлінг,* з снеж. 1944 ген.-лейт. С. Г. Паплаўскі) і 2-я (ген.-лейт. К. К. Свярчэўскі) арміі Войска Польскага, *Дняпроўская ваенная флатылія* (капітан 1-га рангу, з 25.6.1944 контр-адмірал В. В. *Грыгор'еў*).

У лют. 1944 Б. ф. часткай сіл (3-я, 50-я і 16-я паветр. арміі) правёў *Рагачоўска-Жлобінскую аперацыю 1944.* У ходзе *Беларускай аперацыі 1944* войскі фронту 24—29 чэрв. правялі *Бабруйскую аперацыю 1944,* у выніку якой прасунуліся да 110 км, 29 чэрв. — 4 ліп. сумесна з 2-м і 3-м Бел. франтамі і бел. партызанамі правялі *Мінскую аперацыю 1944,* якая завяршылася вызваленнем Мінска і разгромам 100-тысячнай групоўкі ворага, 18 ліп. — 2 жн. правялі *Люблін-Брэсцкую аперацыю 1944.* У жн. — снеж. 1944 войскі фронту вялі актыўныя баявыя дзеянні па ўтрыманню і пашырэнню плацдармаў на Віслe, рыхтаваліся да зімовага наступлення. 14.1—3.2.1945 фронт, удзельнічаючы ў Вісла-Одэр-



**Мемарыяльны комплекс у гонар воінаў 1-га Беларускага фронту і партызан у в. Сычкава Бабруйскага раёна.**

скай аперацыі, правёў Варшаўска-Пазнанскую аперацыю, у ходзе якой былі вызвалены цэнтр. Польшча, Варшава, войскі выйшлі на Одэр і захапілі плацдармы на яго зах. беразе. У лют.— сак. 1945 войскі фронту ўдзельнічалі ва Усх.-Памеранскай аперацыі, у выніку якой была вызвалена ад ворага ўся паўн. ч. Польшчы. 16.4—8.5.1945 войскі фронту ва ўзаемадзеянні з войскамі 1-га Украінскага пры садзеянні 2-га Бел. франтоў правялі *Берлінскую аперацыю 1945* і штурмам авалодалі Берлінам. 10.6. 1945 фронт расфарміраваны. Яго палявое ўпраўленне рэарганізавана ў палявое ўпраўленне Групы сав. войск у Германіі.

Камандуючыя: ген. арміі, з чэрв. 1944 Маршал Сав. Саюза К. К. Ракасоўскі (люты — ліст. 1944), Маршал Сав. Саюза Г. К. Жукаў (ліст. 1944— чэрв. 1945). Члены ваен. савета: ген.-лейт. К. Ф. Цялегін (люты — май 1944, ліст. 1944— чэрв. 1945), ген.-лейт., з 29.7.1944 ген. палк. М. А. Булганін (май — ліст. 1944). Нач. штаба ген.-палк. М. С. Малінін (люты 1944— чэрв. 1945). *М. І. Камінскі.*

**БЕЛАРУСКІ ФРОНТ 2-і** (1-га фарміравання). Утвораны паводле рашэння Стаўкі ВГК ад 27.2.1944 на Ковельскім напрамку.

У склад фронту ўваходзілі арміі: 47-я (ген.-лейт. М. І. Гусеў), 61 (ген.-лейт. П. А. *Бялоў*), 70 (ген.-лейт. В. С. *Папоў*), 6-я паветр. (ген.-лейт. Ф. П. *Палынін*); упраўленне арміі створана на базе ўпраўлення скасаванага Паўн.-Зах. фронту.

17.3.1944 фронт пачаў Ковельскую аперацыю і акружыў варожы гарнізон у Ковелі, што адцягнула з інш. участкаў фронту значныя сілы ворага. Пасля дэблакіроўкі гарнізона ворагам войскі фронту замацаваліся на ўсх. подступах да Ковеля і перайшлі да абароны. Рашэннем Стаўкі ад 5.4. 1944 Б. ф. 2-і расфарміраваны, яго арміі перайшлі ў склад *Беларускага фронту*, а ўпраўленне — у рэзерв Стаўкі.

Камандуючы: ген.-палк. П. А. Курачкін, чл. ваен. савета ген.-лейт. Ф. Я. Бокаў, нач. штаба ген.-лейт. У. Я. *Калпакчы*. *М. І. Камінскі.*

**БЕЛАРУ́СКІ ФРОНТ 2-і** (2-га фарміравання). Утвораны 24.4.1944 на Магілёўскім напрамку ў выніку падзелу *Заходняга фронту* на 2-і і 3-і Бел. франты. Упраўленне фронту створана на базе ўпраўлення 10-й арміі.

У склад фронту ўвайшлі арміі: 33-я (ген.-лейт. В. Дз. *Кручонкін*, з 9.7.1944 ген.-лейт. С. І. Марозаў), 49 (ген.-лейт. І. Ц. *Грышын*), 50-я (ген.-лейт. з 15.7. 1944 ген.-палк. І. В. *Болдзін*) і 4-я паветр. (ген.-палк. К. А. *Вяршынін*). Потым у яго склад на розныя тэрміны ўваходзілі арміі: 3-я (ген.-палк. А. В. *Гарбатаў*), 19 (ген.-лейт. Г. К. *Казлоў*), 43 (ген.-лейт. А. П. *Белабарода*ў), 48 (ген. палк. М. І. Гусеў), 65 (ген.-палк. П. І. *Батаў*), 70-я (ген.-палк. В. С. *Папоў*), 2-я ўдарная (ген.-палк. І. І. *Фядзюнінскі*), 1-я (ген.-палк. М. Я. Катукоў) і 5-я (ген.-палк. В. Ц. Вольскі) гвардз. танкавыя.

Удзельнічаючы ў *Беларускай аперацыі 1944*, Б. ф. 2-і правёў *Магілёўскую аперацыю 1944, Мінскую аперацыю 1944* (ва ўзаемадзеянні з 1-м і 3-м Бел. франтамі і бел. партызанамі), *Беластоцкую аперацыю 1944* і Асавецкую аперацыю. У ходзе далейшага наступлення ў вер.-кастр. 1944 яго войскі выйшлі да граніц Польшчы і Усх. Прусіі, захапілі плацдармы на р. Нараў. У студз.— крас. 1945 фронт удзельнічаў ва Усх. Прускай аперацыі, у лют.— сак.— ва Усх.-Памеранскай аперацыі, з 18 крас.— у Берлінскай аперацыі, у ходзе якой да 6 мая яго войскі выйшлі на рубеж Штральзунд — Вісмар — У ад Шверына — усх. бераг. р. Эльба да Вітэнберга, дзе сустрэліся з войскамі англійскай 2-й арміі. 10.6.1945 2-і Бел. фронт расфарміраваны, яго палявое ўпраўленне перайменавана ва ўпраўленне Паўн. групы войск.

Камандуючыя: ген.-палк. І. Я. Пятроў (крас.— чэрв. 1944), ген.-палк., з 28.7. 1944 ген. арміі Г. Ф. *Захараў* (чэрв.— ліст. 1944), Маршал Сав. Саюза К. К. *Ракасоўскі* (ліст. 1944— чэрв. 1945); члены ваен. савета: ген.-лейт. Л. З. Мехліс (крас.— чэрв. 1944), ген.-лейт. М. Я. Субоцін (чэрв. 1944— чэрв. 1945); нач. штаба: ген.-лейт. С. І. *Любарскі* (крас.— май 1944), ген.-лейт., з лют. 1945 ген. палк. А. М. *Багалюбаў* (май 1944— чэрв. 1945); франтавая газ. «Фронтовая правда». *М. І. Камінскі.*

**БЕЛАРУ́СКІ ФРОНТ 3-і.** Утвораны 24.4. 1944 у выніку падзелу *Заходняга фронту* на 2-і і 3-і Бел. франты.

Першапачаткова ў склад фронту ўвайшлі арміі: 5-я (ген.-лейт., з 15.7.1944 ген.-палк. М. І. *Крылоў*, 31 (ген.-лейт., з 15.7.1944 ген.-палк. В. В. *Глаголеў*, з 17.1.1945 ген.-лейт. П. Р. Шафранаў), 39-я (ген.-лейт. І. І. *Люднікаў*) і 1-я паветр. (ген.-лейт. М. М. *Громаў*, з 2.7. 1944 ген. палк. Ц. Ц. *Хрукін*). Пасля ў яго склад увайшлі арміі: 2-я гвардз. (ген.-лейт. П. Г. Чанчыбадзе), 3-я (ген.-палк. А. В. *Гарбатаў*), 5-я гвардз. танк. (маршал бранятанк. войск П. А. *Ротмістраў*, з 8.8.1944 ген.-лейт. М. Дз. Саламацін, з 18.8.1944 ген.-лейт., з 26.10. 1944 ген.-палк. В. Ц. Вольскі), 11-я гвардз. (ген.-лейт., з 28.6.1944 ген.-палк. К. М. *Галіцкі*), 21-я (ген.-палк. Дз. М. Гусеў), 28 (ген.-лейт. А. А. *Лучынскі*), 33 (ген.-лейт. С. І. Марозаў), 43 (ген.-лейт. А. П. *Белабарода*ў), 48 (ген.-палк. П. Л. *Раманенка*), 50-я (ген.-лейт. Ф. П. Озераў) і 3-я паветр. (ген. палк. М. П. *Папівін*).

Войскі фронту ў маі 1944 вялі баявыя дзеянні мясцовага значэння на Віцебскім і Аршанскім напрамках. У чэрв., удзельнічаючы ў *Беларускай аперацыі 1944,* ва ўзаемадзеянні з 1-м Прыбалтыйскім фронтам правялі *Віцебска-Аршанскую аперацыю 1944*, сумесна з 1-м і 2-м Бел. франтамі ўдзельнічалі ў *Мінскай аперацыі 1944,* ажыццявілі *Вільнюскую аперацыю 1944* і Каўнаскую аперацыю. У далейшым сіламі 39-й арміі і авіяцыі фронт удзельнічаў у Мемельскай аперацыі 1-га Прыбалтыйскага фронту, у кастр. 1944 самастойна правёў Гумбіненскую аперацыю. У выніку войскі фронту выйшлі на дзярж. граніцу СССР, занялі ч. Усх. Прусіі і паўн.-ўсх. ч. Польшчы. У студз.— крас. 1945 войскі фронту ўдзельнічалі ва Усх.-Прускай аперацыі. 13—27.1. 1945 яны правялі Інстэрбургска-Кёнігсбергскую аперацыю, у якой ва ўзаемадзеянні з 2-м Бел. фронтам выйшлі на подступы да Кёнігсберга і блакіравалі ўсх.-прускую групіроўку ворага, а потым (13—29 сак.) ліквідавалі яе і на ўсім фронце наступлення выйшлі да заліва Фрышас-Хаф. У Кёнігсбергскай аперацыі войскі 3-га Бел. фронту штурмам узялі крэпасць і горад Кёнігсберг. 25 крас. яны завяршылі Земландскую аперацыю, ліквідавалі земландскую групоўку ням.-фаш. войск і авалодалі горадам і крэпасцю Пілаў (Балтыйск). 15.8.1945 фронт расфарміраваны. Частка войск перададзена ў рэзерв Стаўкі ВГК, астатнія выкарыстаны для фарміравання Асобай і Баранавіцкай ваен. акруг.

Камандуючыя: ген. палк., з 26.6.1944 ген. арміі І. Д. *Чарняхоўскі* (крас. 1944— люты 1945), Маршал Сав. Саюза А. М. *Васілеўскі* (люты — крас. 1945), ген. арміі І. Х. *Баграмян* (крас.— жн. 1945); член ваен. савета ген.-лейт. В. Е. Макараў; нач. штаба ген.-лейт., з 23.8.1944 ген.-палк. А. П. Пакроўскі; франтавая газ. «Красноармейская правда». *М. І. Камінскі.*

**БЕЛАРУ́СКІ ШТАБ ПАРТЫЗА́НСКАГА РУ́ХУ (БШПР),** рэспубліканскі орган ваеннага кіраўніцтва партыз. рухам на Беларусі. Створаны паводле Пастановы Дзярж. к-та абароны СССР ад 9.9.1942. Сфарміраваны ў палосе Калінінскага фронту, пачаў функцыяніраваць 2.10.1942. Спачатку размяшчаўся ў вёсках Шэйна і Цімохіна Тарапецкага р-на Калінінскай вобл., з ліст. 1942 — у Маскве, з мая 1943 да студз. 1944 — на ст. Сходня каля Масквы, з лют. 1944 — у в. Чонкі Гомельскага р-на, з ліп. 1944 — у в. Лошыца каля Мінска. Расфарміраваны 14.11.1944.

Начальнікі штаба: 2-і сакратар ЦК КП(б)Б П. З. *Калінін* (кастр. 1942 — кастр. 1944), палк. А. А. Прохараў (кастр.— ліст. 1944); нам нач. штаба: сакратар ЦК КП(б)Б Р. Б. *Эйдзінаў* (кастр. 1942 — лют. 1944), нам. старшыні СНК БССР І. А. Крупеня (кастр. 1942 — чэрв. 1943), сакратар ЦК КП(б)Б І. І. *Рыжыкаў* (лют. 1943 — ліст. 1944), ген.-маёр І. М. Арцём'еў (сак.— кастр. 1944), заг. аддзела ЦК КП(б)Б В. І. Закурдаеў (сак. 1943 — май 1944), чл. ЦК КП(б)Б І. П. *Ганенка* (ліст. 1943 — вер. 1944), А. А. Прохараў (лют.— кастр. 1944).

Штаб першапачаткова складаўся з камандавання, 6 аддзелаў і 3 аддзяленняў (83 чал.), а таксама сістэмы асобных часцей і ўстаноў, якія ўваходзілі ў яго, у т. л. адм.-гасп. аддзела, перасоўнага радыёвузла, школы падрыхтоўкі партыз. кадраў і інш. падраздзяленняў (агульная колькасць 494 чал., у т. л. пераменны склад партыз. школы). Структура штаба мянялася па меры росту і ўскладнення функцый кіраўніцтва партыз. рухам, склалася ў асноўным да сярэдзіны крас. 1943, аднак і пазней няспынна развіва-

лася: нарошчваліся структурныя элементы, тэхн. сродкі кіраўніцтва, удасканальвалася штабная служба. У 1944 штаб складаўся з камандавання, 10 аддзелаў (аператыўны, разведвальны, інфармацыйны, сувязі, кадраў, шыфравальны, матэрыяльна-тэхн. забеспячэння, фінансавы, сакрэтны, інжынерна-тэхнічны), санслужбы, адм.-гасп. часці, камендацкага ўзвода (агульная колькасць 278 чал.) і непасрэдна яму падпарадкаваных частак устаноў, у т. л. стацыянарнага і перасоўнага вузлоў сувязі, вучэбна-рэзервовага пункта (створаны замест скасаваных у вер. 1943 *«Беларускай школы»* падрыхтоўкі партыз. кадраў і пункта збору рэзерваў), экспедыцыйна-транспартнай базы, 119-га асобнага авіяатрада з аэрадромнай камандай (агульная колькасць 471 чал.).

БШПР у сваёй дзейнасці кіраваўся дырэктыўнымі дакументамі ЦК ВКП(б), Дзярж. к-та абароны СССР і інш. вышэйшых органаў дзярж. і ваен. ўпраўлення. Працаваў пад непасрэдным кіраўніцтвам *Цэнтральнага штаба партызанскага руху* і ЦК КП(б)Б. Забяспечваў цэнтралізаванае кіраўніцтва атрадамі, брыгадамі і тэрытарыяльнымі партыз. злучэннямі Беларусі. Распрацоўваў і праводзіў у жыццё мерапрыемствы па развіцці партыз. барацьбы, удасканальваў арганізацыйную структуру партыз. фарміраванняў; планаваў, арганізоўваў і кантраляваў баявыя дзеянні брыгад і атрадаў, вывучаў, абагульняў і распаўсюджваў іх баявы вопыт. БШПР вырашаў пытанні забеспячэння партызан узбраеннем, боепрыпасамі, сувяззю, размяшчаў заяўкі на іх прамысловую вытворчасць, арганізоўваў авіяперавозкі ваен. грузаў, асабовага складу ў тыл ворага і эвакуацыю параненых партызан у сав. тыл, вёў падрыхтоўку і ўлік партыз. кадраў. Важнае месца ў рабоце штаба займала разведка тылу праціўніка, ён кіраваў зборам інфармацыі, апрацоўваў яе і рассылаў зацікаўленым штабам дзеючых армій, дзярж. і парт. органам. Акрамя асн. штаба (БШПР), Дзярж. к-т абароны СССР стварыў прамежкавыя (дапаможныя) органы ўпраўлення — прадстаўніцтвы і аператыўныя групы БШПР пры Ваенных саветах франтоў. Яны набліжалі кіраўніцтва БШПР да раёнаў баявых дзеянняў партызан, забяспечвалі ўпраўленне партыз. злучэннямі і атрадамі, якія базіраваліся ў палосе наступлення гэтых франтоў, узгаднялі баявыя задачы партызан з дзеяннямі рэгулярных часцей і злучэнняў Чырвонай Арміі. У розны час БШПР меў на 1-м Прыбалтыйскім (ліст. 1943 — ліст. 1944), Заходнім, Бранскім, Бел. франтах свае прадстаўніцтвы, на Калінінскім (сак.— кастр. 1943), 1-м, 2-м, 3-м Бел. франтах і ў 61-й арміі — аператыўныя групы (з перасоўнымі радыёвузламі). Выключна важнае значэнне ў дзейнасці штаба па ўпраўленню партыз. сіламі «цераз галаву» праціўніка мелі тэхн. сродкі сувязі — радыё і авіяцыя.

Спачатку БШПР меў адзін перасоўны радыёвузел, які знаходзіўся ў Тарапецкім р-не (з вер. 1942 да студз. 1944) у палосе 4-й ударнай арміі. Дзве яго радыёстанцыі ўстанавілі сувязь з 4 партыз. брыгадамі Віцебскай вобл. Восенню 1942 партыз. атрады і брыгады на тэр. Беларусі мелі 55 радыёстанцый. Амаль усе яны былі прывязаны на радыёвузлы розных ведамстваў — ЦШПР, разведорганаў Чырвонай Арміі, НКДБ СССР. У 1943 у тыле ворага было да 148 радыёстанцый. Большасць іх падтрымлівала сувязь са стацыянарным радыёвузлом ЦШПР у Маскве, астатнія — з перасоўнымі радыёвузламі БШПР у Тарапецкім р-не і яго прадстаўніцтваў на франтах. Да часу вызвалення Беларусі ў 1944 у тыле ворага працавала 168 радыёстанцый (усяго партызанам было перакінута 236 радыёстанцый, 310 радыстаў). У распараджэнні БШПР былі 2 буйныя радыёвузлы: стацыянарны ў Маскве (былы радыёвузел ЦШПР) і перасоўны ў Чонках Гомельскага р-на (раней ён знаходзіўся ў Тарапецкім р-не), іх абслугоўвалі 204 радыёспецыялісты. Сувязь з партызанамі ажыццяўлялася пры дапамозе авіяцыі. Першыя самалёты прызямліліся летам 1942 у месцах дыслакацыі партызан у Клічаўскім, Любанскім р-нах, з кастр. 1942 наладзілася авіясувязь з партызанамі Віцебскай вобл. (гл. *Партызанскія аэрадромы*). У 1943 палёты сталі больш рэгулярныя. На працягу 1943 ЦК КП(б)Б і БШПР пераправілі да партызан самалётамі 1626 парт. кіраўнікоў абл. і раённага звяна, камандзіраў і камісараў брыгад, афіцэраў сувязі, інструктараў мінпадрыўной справы. Зваротнымі рэйсамі з тылу ворага вывезена 4204 чал. (сотні з іх прадставілі вусныя ці пісьмовыя даклады і інш. інфармацыйныя матэрыялы) і 4886 партыз. справаздач. За ўвесь перыяд у тыл праціўніка да партызан Беларусі здзейснена 5945 самалётавылетаў, перакінута 2,4 тыс. т баявых грузаў і больш за 2,6 тыс. чал., у сав. тыл вывезена каля 9 тыс. чалавек (гл. *Дапамога савецкага тылу партызанам*). У выніку развіцця авія- і радыёсувязі, асабістых кантактаў і дастаўкі пісьмовай дакументацыі БШПР меў у распараджэнні ўсебаковую інфармацыю, неабходную для ўпраўленчай дзейнасці. Гэта дазваляла яму распрацоўваць і прымаць найбольш дакладныя арганізац. і аператыўныя рашэнні. Напрыклад, у канцы лета 1942 — вясною 1943 у партыз. руху Беларусі склалася цяжкае становішча. Праціўнік за гэты час правёў 54 буйныя карныя аперацыі супраць брыгад і атрадаў Віцебскай, Магілёўскай, Мінскай, Гомельскай, Пінскай і Брэсцкай абласцей. Зімою і вясною вораг узмацніў карныя экспедыцыі асабліва супраць партызан Віцебшчыны. Партызаны неслі вял. страты ў асабовым складзе і ўзбраенні, не хапала боепрыпасаў. Многім партыз. атрадам давялося пакінуць зімовыя лагеры; былі страчаны харчовыя базы. У баях праціўніку ўдалося скаваць і ў многіх месцах выцесніць партызан са сталых месцаў базіравання, ізаляваць іх ад важных аб'ектаў пастаяннага ўздзеяння. Каб змяніць аператыўную сітуацыю на карысць партызан, БШПР паслаў у Расонска-Асвейскую зону свайго прадстаўніка ст. памочніка аператыўнага аддзела А. Ф. Бардадына з задачай арганізаваць перагрупоўку брыгад, якія сканцэнтраваліся ў блакіраванай зоне. Адначасова БШПР правёў т. зв. «планёрную аперацыю» па забеспячэнні партызан зброяй і боепрыпасамі, мед. інструментамі, лекавымі сродкамі і інш. Адначасова з узмацненнем баявога стану брыгад і атрадаў БШПР патрабаваў ад іх не пазней 20 крас. заняць ранейшыя раёны базіравання і перанесці баявыя дзеянні на транспартныя камунікацыі праціўніка. Пад кіраўніцтвам БШПР дзеянні партызан насілі планавы і мэтанакіраваны характар. БШПР удзельнічаў у распрацоўцы планаў ЦШПР, падрыхтоўцы і правядзенні аперацый «Рэйкавая вайна» і «Канцэрт», самастойна распрацаваў і кіраваў трэцім этапам аперацыі «Рэйкавая вайна». Паводле даных аператыўнага аддзела БШПР бел. партызаны перабілі 259 тыс. рэек, ажыццявілі масавае разбурэнне чыг. ліній. На працягу 1943 партызаны падарвалі 6116 цягнікоў, у т. л. на важнейшых магістралях і ракадах Орша—Мінск—Брэст 1156, Унеча—Гомель—Лунінец—Брэст 990, Невель—Віцебск—Орша—Магілёў—Жлобін—Гомель—Чарнігаў 817. У перыяд Курскай бітвы ў ліп.— жн. 1943 падарвана 1336 цягнікоў. Вясною і летам 1943 па заданні ЦК КП(б)Б штаб забяспечыў перакідку ў тыл ворага арганізатарскіх парт. груп, якія ў прызначаных раёнах разгарнуліся ў падп. абласныя, міжраённыя (к-ты і цэнтры), раённыя к-ты КП(б)Б. У тыле ворага была створана шырокая сетка падп. парт. органаў.

Агульнымі намаганнямі падп. парт. органаў і партыз. штабоў на Беларусі быў завершаны працэс цэнтралізацыі партыз. руху. На час стварэння БШПР у тыле ворага дзейнічалі 324 партыз. атрады, з іх 168 уваходзілі ў склад 32 брыгад. Вясною 1944 дзейнічала 26 тэрытарыяльных злучэнняў, 702 атрады, аб'яднаныя ў 148 брыгад і 88 асобных атрадаў. Дзейнасць



**Мемарыяльная стэла ў гонар Беларускага штаба партызанскага руху ў в. Чонкі Гомельскага раёна.**

парт. органаў і партыз. штабоў, поспехі партызан, рост кадраў, наяўнасць вялікіх партыз. зон абумовілі звядзенне амаль усіх брыгад і атрадаў у злучэнні паводле адм.-тэр. прынцыпу. Было створана 8 абл. партыз. злучэнняў — Гомельскай, Палескай, Пінскай, Магілёўскай, Баранавіцкай, Брэсцкай, Вілейскай, Беластоцкай абласцей (гл. адпаведныя артыкулы). Там, дзе стварэнне адзінага для ўсёй вобласці злучэння было немэтазгодна, арганізоўвалі два (у Баранавіцкай вобл.), тры (у Мінскай вобл.). У Віцебскай вобл. сталыя злучэнні не былі створаны. Агульнае кіраўніцтва брыгадамі ажыццяўляў Віцебскі падп. абком КП(б)Б, ваен. кіраўніцтва — непасрэдна БШПР і яго аператыўная група пры Ваен. савеце Калінінскага фронту, з ліст. 1943 гэтыя функцыі ўскладзены на прадстаўніцтва ЦШПР і БШПР на 1-м Прыбалтыйскім фронце (са студз. 1944 прадстаўніцтва БШПР на 1-м Прыбалт. фронце). У склад некаторых абл. злучэнняў карыстоўваць партыз. сілы на ўсёй глыбіні іх аператыўнага парадку, стварылі лепшыя ўмовы манеўра і матэрыяльнага забеспячэння.

За ўвесь перыяд сваёй дзейнасці БШПР аб'ядноўваў 33 тэрытарыяльныя злучэнні. Усе яны былі рознымі па сваёй структуры, колькасці брыгад і атрадаў, якія ў іх уваходзілі, аб'ёму функцый і ўзроўню аператыўнага кіраўніцтва іх штабоў баявымі дзеяннямі брыгад і атрадаў. (Гл. таксама *Партызанскія зоны, Партызанскае злучэнне, Партызанская брыгада, Партызанскі атрад, Ваенна-аператыўныя групы*). У в. Чонкі Гомельскага р-на ў гонар БШПР пастаўлены помнік. *А. Л. Манаенкаў.*

**«БЕЛАРУ́СЬ»,** альманах бел. літаратуры. Выдаваўся ў час Вял. Айч. вайны пад рэдакцыяй П. Глебкі, К. Крапівы, М. Лынькова на бел. мове. Выйшлі 2 нумары: 1-ы ў 1943 у Маскве, 2-і ў 1945 у Мінску (пад наз. «Альманах»), падрыхтаваны да 25-годдзя БССР. Апублікаваны творы, прысвечаныя барацьбе сав. народа супраць ням.-фаш. захопнікаў: вершы Я. Купалы («Беларускім партызанам», «Паўстаў народ», «Зноў будзем шчасце мець і волю»), Я. Коласа («Мая зямля», «Савецкім народам», «Салар», «Чую голас» і інш.), П. Броўкі, Глебкі, А. Куляшова, П. Панчанкі, М. Танка, Э. Агняцвет, А. Астрэйкі, А. Бялевіча, К. Буйло, Ц. Крысько (В. Віткі), М. Лужаніна, М. Машары і інш., апавяданні Коласа («У разведцы», «Санітарка Таня», «Сустрэча з ворагам»), Лынькова («Пацалунак», «Салют», «Васількі» і інш.), К. Чорнага («Аксеніны сляды», «Маленькая жанчына», «Вялікае сэрца» і інш.), І. Гурскага, А. Якімовіча, п'есы Крапівы «Проба агнём» і «Валодзеў гальштук», В. Вольскага «Несцерка», артыкулы Лынькова «Мы пераможам» і «Літаратура народа», М. Дабрыніна «Беларуская літаратура Вялікай Айчыннай вайны».

**БЕЛАСТО́ЦКАЕ ПАРТЫЗА́НСКАЕ ЗЛУЧЭ́ННЕ.** Створана ў жн. 1943 паводле рашэння ЦК КП(б)Б і БШПР. Узначальвалі 1-ы сакратар *Беластоцкага падпольнага абкома КП(б)Б* В. Е. *Самуцін* (жн. 1943 — ліп. 1944); нач. штаба П. П. Капуста (жн. 1943 — ліп. 1944), І. А. Сянькевіч (в. а., люты — крас. 1944). Сфарміравана на тэр. Мінскай вобл. з атрадаў і груп, што ўваходзілі ў склад партыз. злучэння Слуцкай зоны, агульная колькасць 744 (па інш. даных 809) чал. У вер.— ліст. 1943 злучэнне зрабіла 1000-кіламетровы баявы рэйд па тылу ворага з Капыльскага р-на Мінскай вобл. ў Беластоцкую вобл. (гл. ў арт. *Партызанскія рэйды*). Брыгады і атрады базіраваліся гал. чынам у Ліпічанскай і Ружанскай пушчах Баранавіцкай і Брэсцкай абл., дзейнічалі дробнымі падраздзяленнямі на тэр. Беластоцкай вобл.

Яднала: 5 партыз. брыгад — імя Аляксандра Неўскага, імя Кастуся Каліноўскага, імя Панамарэнкі, імя Чапаева, «У імя Радзімы»; 7 асобна дзеючых атрадаў — 550-ы, «Баявы» імя Дунаева, імя Багдана Хмяльніцкага, імя Будзённага, імя Дзяржынскага, імя Жукава, імя Калініна (пра партыз. брыгады і атрады гл. адпаведныя артыкулы). На час злучэння з Чырв. Арміяй (ліп. 1944; асобныя злучэнні выйшлі ў сав. тыл у жн. 1944) налічвала 4165 партызан. *В. Е. Самуцін.*



Партызаны вяртаюцца ў лагер пасля бою.



Група партызан вяртаецца з баявога задання.

уваходзілі міжраённыя тэрытарыяльныя злучэнні.

Напрыклад, у партыз. злучэнне Магілёўскай вобл.— Магілёўскую ваенна-аператыўную групу (ВАГ) — уваходзіла 9 раённых ВАГ (Асіповіцкая, Бялыніцкая, Бярэзінская, Быхаўская, Кіраўская, Клічаўская, Круглянская, Магілёўская, Шклоўская), а таксама асобныя групоўкі брыгад і атрадаў Паўн.-ўсх. і Паўд.-ўсх. зон; Баранавіцкае злучэнне аб'ядноўвала 4 міжраённыя тэр. злучэнні — Івянецкай, Лідскай, Шчучынскай, Стаўбцоўскай зон, акрамя таго дзейнічала самастойна Баранавіцкае партыз. злучэнне Паўд. зоны. На перыяд правядзення буйных аперацый той ці іншай групоўкі брыгад ствараліся часовыя злучэнні або каардынацыйныя цэнтры. На працягу 1943 ЦК КП(б)Б, БШПР, падп. парт. і партыз. органы правялі вял. работу па раніраванню і перагрупоўцы партыз. сіл. Для ўсіх брыгад і атрадаў былі вызначаны месцы дыслакацыі і раёны баявых дзеянняў, удакладнена іх падпарадкаванасць. Гэтыя меры дазволілі больш эфектыўна вы-

**БЕЛАСТО́ЦКАЯ АБЛАСНА́Я АНТЫФАШЫ́СЦКАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ.** Дзейнічала з ліст. 1943 да ліп. 1944 на тэр. Беластоцкай вобл. на чале з Беластоцкім абл. антыфаш. к-там пад кіраўніцтвам *Беластоцкага падпольнага абкома КП(б)Б.*

Першыя антыфаш. арг-цыі і групы сталі ўзнікаць у 1941—42 у Ваўкавыскім, Гродзенскім, Крынкаўскім, Свіслацкім і Скідзельскім р-нах, перш за ўсё ў тых населеных пунктах, дзе ў час панавання бурж. Польшчы былі развіты рэвалюцыйны і нац.-вызв. рух працоўных пад кіраўніцтвам КПЗБ. Значную ролю ў стварэнні і развіцці сеткі антыфаш. арг-цый і груп у Беластоцкай вобл. адыграў *Брэсцкі міжраённы «Камітэт барацьбы з нямецкімі акупантамі».* Антыфашысцкі рух узмацніўся з пачаткам дзейнасці Беластоцкага падп. абкома КП(б)Б і стварэннем на тэр. вобласці міжраённых і раённых к-таў партыі.

28.11.1943 абком стварыў Беластоцкі абл. антыфаш. к-т і зацвердзіў яго склад: старшыня Д. К. *Сукачоў*, са студз. 1944 — К. І. Лук'янаў, члены Я. Р. Бонк, І. С. Целеш, М. М. Уладыка. К-т узначальваў дзейнасць Беластоцкай гар., Бельскай, Браньскай, Ваўкавыскай, Гродзенскай, Заблудаўскай, Крынкаўскай, Лапскай, Свіслацкай, Скідзельскай, Снядаўскай, Саколкаўскай раённых антыфаш. арг-цый. Да мая 1944 яна аб'ядноўвала 86 арг-цый і груп (639 чал.). Падпольшчыкі вялі масава-паліт. работу сярод насельніцтва, распаўсюджвалі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, узнімалі народ на барацьбу супраць акупантаў. Абласны к-т выдаваў друкарскім спосабам бюлетэнь. Антыфашысцкія арг-цыі і групы падтрымлівалі цесную сувязь з партызанамі, удзельнічалі ў стварэнні скрытага партыз. рэзерву, які да лета 1944 налічваў больш за 3 тыс. чал. Антыфашысты здабылі і перадалі партызанам 340 вінтовак і аўтаматаў, 31 кулямёт, 16 пісталетаў, 10 тыс. патронаў, больш за 3 тыс. снарадаў, значную колькасць медыкаментаў, прадуктаў і інш., у Беластоку спалілі тэкстыльную ф-ку, у Гродне ўзарвалі 2 вагоны з авіябомбамі, сістэматычна парушалі тэлефонна-тэлеграфную сувязь ворага, пусцілі пад адхон некалькі эшалонаў, знішчалі гітлераўцаў, нападаючы на гарнізоны і апорныя пункты акупантаў, вялі разведку.

*Л. В. Аржаева, П. П. Ліпіла.*





Воіны Чырвонай Арміі фарсіруюць Нёман у раёне Гродна. Вулічны бой у прадмесці Беластока. Ліпень 1944.

**БЕЛАСТО́ЦКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1944**, наступальная аперацыя войск 2-га Бел. фронту (ген.-палк. Г. Ф. *Захараў*) 5—27.7.1944, састаўная частка *Беларускай аперацыі 1944*.

У Б. а. ўдзельнічалі арміі: 3-я (перададзена са складу 1-га Бел. фронту, ген.-палк. А. В. *Гарбатаў*), 49-я (ген.-лейт. І. Ц. *Грышын*), 50-я (ген.-лейт. І. В. *Болдзін*), 4-я паветраная (ген.-палк. авіяцыі К. А. *Вяршынін*). Войскі 2-га Бел. фронту, якія ўдзельнічалі ў *Мінскай аперацыі 1944* і праследавалі разгромленага праціўніка, паводле дырэктывы Стаўкі Вярх. Галоўнакамандавання ад 4.7.1944 атрымалі задачу без аператыўнай паўзы развіваць наступленне ў напрамку на Навагрудак, Ваўкавыск, Беласток; у ходзе наступлення завяршыць разгром рэштак ням.-фаш. 4-й і 9-й армій, не даць ім магчымасці замацавацца і арганізаваць супраціўленне на загадзя падрыхтаваных да абароны рубяжах; у далейшым выйсці да граніцы з Усх. Прусіяй і ў паўн.-ўсх. раёны Польшчы.

5—16 ліп. сав. войскі праследавалі праціўніка, які адступаў, знішчалі яго ар'ергарды і адбівалі контратакі. Часці 49-й і 50-й армій адбівалі ўсе спробы войск праціўніка, якія трапілі ў акружэнне, вырвацца з *мінскага «катла»* ў паўд. і паўд.-зах. напрамках. 7 ліп. воіны 49-й арміі вызвалілі Дзяржынск, 8 ліп. часці 3-й арміі і армейскі рухомы атрад 50-й арміі вызвалілі Навагрудак. 9 ліп. войскі 3-й арміі выйшлі на рубеж рэк Нёман і Моўчадзь (за 5 сутак прасунуліся на 120—125 км), фарсіравалі 3 водныя перашкоды, 12 ліп. вызвалілі Зэльву, 13 ліп.— Масты, 14 ліп.— Ваўкавыск і падышлі да р. Свіслач. 10 ліп. ў аперацыю ўведзены войскі 50-й арміі, якія за 6 дзён выйшлі на рубеж рэк Свіслач (вусце ракі) і Нёман (сярэдняе цячэнне), фарсіравалі іх і 16 ліп. вызвалілі асн. частку Гродна (на правым беразе Нёмана). 17—27 ліп. войскі фронту — 50-я, 3-я арміі і ўведзеныя з 2-га эшалона ў бітву 49-я армія, а таксама 3-і гвардз. кав. корпус (перададзены з складу 3-га Бел. фронту, ген.-лейт. М. С. *Аслікоўскі*) — зламалі супраціўленне праціўніка, якое ўзрасло з падыходам у раён Гродна — Свіслач да 10 ням.-фаш. дывізій. Баі ў гэтым раёне завяршыліся 23—24 ліп., была вызвалена 24 ліп. занёманская (левабярэжная) ч. Гродна, сав. войскі прасунуліся на 45—60 км. Войскі фронту пры падтрымцы 4-й паветр. арміі і авіяцыі далёкага дзеяння 27 ліп. вызвалілі Беласток і выйшлі на подступы да граніцы Усх. Прусіі, на рубеж Аўгустоўскага канала, на 3 ад Беластока. Быў зроблены пачатак вызвалення паўн.-ўсх. раёнаў Польшчы. 11 часцям і злучэнням нададзены ганаровыя найменні «Ваўкавыскіх», 17 — «Гродзенскіх», 24 — «Беластоцкіх».




**БЕЛАСТО́ЦКІ ПАДПО́ЛЬНЫ АБКО́М КП(б)Б.** Створаны *Цэнтральным Камітэтам КП(б)Б* і працаваў пад яго кіраўніцтвам з 27.7.1943 да ліп. 1944. Дзейнічаў на тэр. Беластоцкай вобл. Стварыў і ўзначаліў падп. Аўгустоўскі, Браньскі, Лапскі, Чыжаўскі міжрайкомы КП(б)Б (гл. адпаведныя артыкулы) і 9 райкомаў [гл. *Раённыя*

*падпольныя камітэты КП(б)Б*], якія аб'ядноўвалі 35 пярвічных парт. арг-цый, 552 камуністаў у партыз. фарміраваннях. 3 міжрайкомы і 5 райкомаў выдавалі газеты (гл. *Друк падпольны*). Абком актывізаваў работу па папаўненню новымі сіламі партыз. атрадаў, развіццю партыз. руху, распрацоўваў найбольш буйныя аперацыі па разгрому ням.-фаш. захопнікаў, праводзіў палітыка-масавую работу. Накіроўваў дзейнасць *Беластоцкага падпольнага абкома ЛКСМБ, Беластоцкага партызанскага злучэння, Беластоцкай абласной антыфашысцкай арганізацыі* і яе к-та. Сакратар абкома В. Е. *Самуцін*; члены: Т. М. *Стрыжак*, Д. К. *Сукачоў* (да 25.1.1944), П. П. *Капуста*, С. К. *Майхровіч* (абодва з 23.11.1943). Асноўная база ў Ліпічанскай пушчы. Друкаваны орган — газ. *«Белостокская правда»*; выдаваў таксама лістоўкі, адозвы, бюлетэні, зводкі Саўінфармбюро.

Беластоцкі абком КП(б)Б, які знаходзіўся ў сав. тыле, у сак. 1943 накіраваў былога старшыню Ядвабнаўскага райвыканкома Сукачова ў Беластоцкую вобл. для наладжвання сувязі з падп. парт.-камсамольскімі і антыфаш. арг-цыямі, што дзейнічалі на акупіраванай тэрыторыі. Вясной і летам 1943 накіраваны арганізатарскія групы і ўпаўнаважаныя ЦК КП(б)Б па асобных раёнах Беластоцкай вобл. 4.8.1943 сакратар Б. п. а. КП(б)Б Самуцін [зацверджаны ЦК КП(б)Б 27.7.1943] прыбыў у тыл ворага (Мінская вобл.) і разам з нач. штаба партыз. руху Беластоцкай вобл. Капустай сфарміраваў Беластоцкае партыз. злучэнне, якое зрабіла 1000-кіламетровы рэйд да месца дыслакацыі — Ліпічанскай пушчы. *С. І. Партасёнак.*

**БЕЛАСТО́ЦКІ ПАДПО́ЛЬНЫ АБКО́М ЛКСМБ.** Створаны *Цэнтральным Камітэтам ЛКСМБ*. Дзейнічаў з чэрв. 1943 да 15.7.1944 на тэр. Беластоцкай вобл. пад кіраўніцтвам ЦК ЛКСМБ і *Беластоцкага падпольнага абкома КП(б)Б*. Узначальваў дзейнасць *Беластоцкага падпольнага гаркома ЛКСМБ, Гродзенскага падпольнага гаркома ЛКСМБ*, 21 райкома (гл. *Раённыя падпольныя камітэты ЛКСМБ*), 279 тэрытарыяльных камсамольскіх, 68 маладзёжных антыфаш. арг-цый, 96 пярвічных камсам. арг-цый у партыз. фарміраваннях, усяго больш за 2,6 тыс. камсамольцаў. Сакратары абкома: Т. М. *Стрыжак* (1-ы сакратар да 5.6.1944, чл. ЦК ЛКСМБ), П. І. Папоў (з 5.1.1944, 1-ы сакратар з 5.6.1944), В. А. *Чыстова* (з 29.9.1943); члены: Чыстова, В. І. *Соламава* (да 2.2.1944, загінула), М. П. *Пыцько* (да 23.1.1944, загінуў), І. Н. *Скрыннік* (1.8.1943 — 1.7.1944, загінуў), В. Л. Лазебны (з 5.8.1943), Я. І. Ка́чан (з кастр. 1943), М. М. Воранаў (з 23.1.1944), М. А. Абрашын (з крас. 1944); у апараце падп. абкома працаваў пам. упаўнаважанага ЦК ЛКСМБ па Беластоцкай вобл. К. А. Кірушкін. Асноўная база знаходзілася ў Ліпічанскай пушчы (Жалудоцкі р-н). Друкаваны орган — газ. «Молодой партизан». *Р. М. Шавяла.*

**БЕЛАСТО́ЦКІ ПАДПО́ЛЬНЫ ГАРКО́М ЛКСМБ.** Дзейнічаў з 1.11.1943 да 18.8.1944 пад кіраўніцтвам *Беластоцкага падпольнага абкома ЛКСМБ* і Беластоцкага падп. РК КП(б)Б. Кіраваў падп. камсам. і маладзёжнымі арг-цыямі і групамі г. Беластока. Сакратары гаркома: М. П. *Пыцько* (да 23.1.1944, загінуў), І. Н. *Скрыннік* (23.1—1.7.1944, загінуў); члены: Ф. Г. Ярастаў (да 1.12.1943), У. А. Смелы, В. Я. Лявонаў. Асноўная база знаходзілася ў Беластоцкім р-не пры *партызанскай брыгадзе імя Кастуся Каліноўскага*. *Р. М. Шавяла.*

**БЕЛАСТО́ЦКІЯ ВАЙСКО́ВЫЯ ЗЛУЧЭ́ННІ І ЧАСЦІ,** часці і злучэнні Чырв. Арміі, якія атрымалі ганаровыя найменні «Беластоцкіх». За вызваленне г. Беласток (27.7.1944) у перыяд *Беластоцкай аперацыі 1944* гэта найменне загадам ВГК ад 9.8.1944 нададзена 24 злучэнням і часцям 3-й і 4-й паветр. армій 2-га Бел. фронту.

Часці і злучэнні, якім нададзены найменні «Беластоцкіх»: 343-я стралк. дывізія (ген.-маёр А. І. Якімовіч), 4-я гвардз. мінамётная брыгада (палк. М. М. Карыцька), 334-ы (палк. І. І. Савельеў), 336-ы (палк. І. С. Бяляеў) і 339-ы (палк. С. Н. Дзяменнікаў) гвардз. стралк. палкі, 336-ы (падпалк. А. Ф. Кузоўкін), 457-ы (падпалк. І. В. Фралоў), 556-ы (падпалк. П. В. Качур), 858-ы (маёр І. В. Жыжка), 1018-ы (палк. В. М. Бічан), 1078-ы (падпалк. М. А. Гімельфорб) і 1170-ы (палк. С. М. Чарнаўцаў) стралк. палкі, 40-ы інж.-танк. полк (палк. М. В. Матачкін), 510-ы асобны агнямётны танк. полк (падпалк. Г. В. Сіткаў), 1812-ы (маёр Р. А. Плаксін) і 1901-ы (падпалк. Т. Ф. Зірка) самаходныя арт. палкі, 56-ы гаўбічны арт. полк (падпалк. У. М. Вайцахоўскі), 310-ы гвардз. арт. полк (падпалк. А. А. Каграманян), 593-і армейскі знішчальны процітанк. арт. полк (падпалк. П. А. Анішкін), 540-ы армейскі мінамётны полк (маёр М. М. Раманаў), 1284-ы армейскі зенітны арт. полк (падпалк. А. М. Маскалёў), 16-ы начны бамбардзіровачны авіяцыйны полк (маёр В. І. Жыгаркоў), 172-і знішчальны авіяцыйны полк (падпалк. М. І. Алабан), 312-ы штурмавы авіяцыйны полк (маёр В. М. Рубцоў). Войскам, якія ўдзельнічалі ў баях за вызваленне Беластока, загадам ВГК ад 27.7.1944 аб'яўлена падзяка, у Маскве дадзены салют 20 арт. залпамі з 224 гармат. *М. І. Камінскі.*

**БЕЛАХВО́СЦІКАЎ** Аляксандр Яфімавіч (падп. псеўд. Альдэмар, 10.8.1914, в. Ляхавік, Аршанскі р-н — 5.5.1943), удзельнік *Віцебскага партыйна-камсамольскага падполля*. Чл. КПСС. Скончыў Бел. ін-т нар. гаспадаркі (1938), працаваў нач. прамысловага сектара планавай камісіі Віцебскага аблвыканкома, пазаштатным сакратаром Кастрычніцкага РК ЛКСМБ Віцебска. Паводле рашэння гаркома ЛКСМБ пакінуты ў горадзе для падп. работы. У ліп. 1941 — маі 1943 кіраўнік разведвальна-дыверсійнай групы. У маі 1943 схоплены і расстраляны гітлераўцамі. У Віцебску яго імем названа вуліца; на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

**БЕ́ЛІЦКАЯ АБАРО́НА 1943—44,** баі партыз. брыгады Сенненскай і партыз. брыгады 1-й імя К. С. Заслонава па абароне аэрадрома ў саўгасе «Беліца» Сенненскага р-на ў снеж. 1943 — маі 1944. Праз гэты аэрадром ішло забеспячэнне партызан Сенненскага і суседніх раёнаў (за ноч прымаў да 10 самалётаў з грузамі).

Для ліквідацыі аэрадрома акупанты 20.12.1943 накіравалі карны батальён (каля 300 салдат). Партызаны атрадаў № 6 і імя К. А. Хаіркізава Сенненскай брыгады ўтрымалі свае пазіцыі, адбілі 3 атакі ворага, знішчылі каля 50 гітлераўцаў і адкінулі ворага да в. Даганаўка. 3—5.2.1944 вораг (каля 600 салдат, батарэя 76-мм гармат) пачаў наступленне з Даганаўкі на абарончыя рубяжы партызан каля саўгаса «Беліца». Адначасова з тылу ад в. Латыгаль наступаў батальён карнікаў, але яго наступленне было спынена атрадамі імя Аляксандра Неўскага і імя Чапаева Сенненскай партыз. брыгады. Вораг асн. сіламі авалодаў перадполлем партыз. абароны ў раёне в. Новая Беліца і 1,5 гадз прамой наводкай вёў арт. агонь па ўмацаваннях партызан. Атаку гітлераўцаў партызаны адбілі, сустрэўшы акупантаў агнём з 30 кулямётаў і 30 аўтаматаў; на флангах перайшлі ў контрнаступленне атрады імя Суворава і імя А. М. Захарава Сенненскай брыгады і атрады «Аршанец» і «Перамога» брыгады імя Заслонава. Страціўшы каля 100 салдат забітымі і паранепымі, вораг адышоў у раён в. Нямойта, пакінуўшы свой абоз, палявыя кухні і частку боепрыпасаў. Страты партызан — 18 чал. забітых і параненых. Сканцэнтраваўшы ў паўн. частцы раёна мотастралковую дывізію і зводны полк з паліцэйскіх гарнізонаў Сенненскага, Багушэўскага і Бешанковіцкага р-наў, 16.3.1944 фашысты пачалі наступленне і на 5-ы дзень баёў адцяснілі партызан на захад ад аэрадрома. Партызаны стварылі новую паласу абароны па зах. беразе р. Усвейка і ўтрымлівалі яе да мая 1944. *У. С. Пасэ.*

**«БЕЛОРУ́ССКИЙ МСТИ́ТЕЛЬ»,** назва № 11 ад 3.4.1944 газ. *«Мститель»*, органа Іўеўскага падп. РК КП(б)Б.

**«БЕЛОСТО́КСКАЯ ПРА́ВДА»,** газета, заснавана ў 1939 пад назвай «Освобождённый Белосток». У час ням.-фаш. акупацыі орган *Беластоцкага падпольнага абкома КП(б)Б* і абл. Савета дэп. працоўных. Вядома 57 нумароў за 7.11.1943 — 6.6.1944 на рус., часткова бел. і польскай мовах. Рэдактар С. К. *Майхровіч*. Пасля вызвалення з 22.10.1944 выдаецца пад наз. «Гродненская правда», орган Гродзенскіх абкома і гаркома, абл. і гар. Саветаў нар. дэпутатаў.

**БЕ́ЛУШ** Міхаіл Андрэевіч (1924, в. Руда Ліпічанская Мастоўскага р-на — 16.6.1944), удзельнік партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. ВЛКСМ. У партызанах з мая 1943, радавы атрада «Кастрычнік» партыз. брыгады Першамайскай. Падарваў 8 варожых эшалонаў. У баі пры разгроме варожага гарнізона ў в. Купіск Навагрудскага р-на накрыў сваім целам

станковы кулямёт. Пахаваны ў г. п. Карэлічы. Яго імем названы вуліцы ў гарадах Гродна, Масты, Навагрудак, гар. пасёлках Дзятлава і Карэлічы; у в. Купск, на радзіме, на месцы гібелі пастаўлены помнікі.

**БЕ́ЛЫ** Андрэй Анісімавіч (н. 17.6. 1922, в. Навінкі Калінкавіцкага р-на), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1949. Скончыў Сталінградскае ваен. вучылішча сувязі (1941). З крас. 1942 на Паўд.-Зах., Сталінградскім, Данскім, Цэнтр. франтах. Мал. лейтэнант Б. вызначыўся ў кастр. 1943 пры фарсіраванні Дняпра каля Лоева. Байцы ўзвода сувязі, якім камандаваў Б., пад агнём ворага на плытах пераправіліся на правы бераг, выбілі праціўніка з траншэй, наладзілі сувязь камандзіра батальёна з камандзірамі рот, гэтым памаглі выканаць баявую задачу. Пасля вайны да 1967 у Сав. Арміі, падпалкоўнік.

**БЕ́ЛЫЯ,** вёска на тэр. Глускага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 5 км на Пн ад в. Яўсеевічы Завалочыцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 32 чал. У студз. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 21 жыхара, вёску (12 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1961 на месцы вёскі ўстаноўлены абеліск.

**БЕ́ЛЬСКІ** Іосіф Аляксандравіч (21.9. 1903, в. Лошыца 1-я, цяпер у межах Мінска — 25.6.1966), сав. прафс. і парт. дзеяч, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Мінскай вобл. Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1929. Скончыў Маскоўскую прамысловую акадэмію (1941). Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. З сак. 1941 сакратар Мінскага абкома КП(б)Б. З 21.7.1941 да ліп. 1944 сакратар *Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б*, адначасова ў маі—чэрв. 1943 камандзір, у лют.—ліп. 1944 в. а. камандзіра *Мінскага партызанскага злучэння*. З 1944 сакратар Мінскага гаркома КП(б)Б, у 1948—58 старшыня Бел. рэспубліканскага савета прафсаюзаў. Чл. ЦК КПБ у 1952—60. Дэп. ВС БССР у 1947—51, 1955—59. У Мінску і Барысаве яго імем названы вуліцы.

**БЕРАЗВЕ́ЦКІ ЛА́ГЕР СМЕ́РЦІ** (Ш т а л а г № 351), створаны ням.-фаш. акупантамі ў вер. 1941 каля б. Беразвецкага манастыра (Глыбоцкі р-н) для масавай загубы сав. ваеннапалонных. У абгароджаным калючым дротам лагеры (тэр. каля 3 га) пабудоў не было, вязняў трымалі пад адкрытым небам, амаль не кармілі. Ад непасільнай працы, голаду, холаду, хвароб штодзень паміралі сотні людзей. Гітлераўцы ўчынялі масавыя расстрэлы. Зімой трупы не паспявалі вывозіць і закопваць, іх кідалі ў возера. З канца 1943, пасля выхаду Італіі з гітлераўскай кааліцыі, у лагер прывозілі італьянскіх салдат і афіцэраў. Каб замесці сляды сваіх злачынстваў, гітлераўцы перад расстрэлам распаралі асуджаных, адбіралі дакументы і асабістыя рэчы. За час існавання лагера да ліп. 1944 тут загублена больш за 27 тыс. ваеннапалонных. Ва ўрочышчы Барок, за 500 м ад б. лагера на могілках сав. і італьянскіх ваеннапалонных (56 ям-магіл) пастаўлены 2 помнікі.

**БЕРАЗІНЕ́Ц,** вёска на тэр. Слуцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1 км на Пн ад в. Жылін Брод Першамайскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 37 чал. 21.2.1943, у час карнай аперацыі «Горнунг», фашысты загубілі 22 жыхароў, вёску (9 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Ахвяры фашызму пахаваны ў в. Жылін Брод, у 1975 на іх магіле пастаўлены помнік. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**БЕРАЗІНО́,** горад, цэнтр Бярэзінскага р-на, прыстань на р. Бярэзіна, за 101 км на У ад Мінска, 50 км ад чыг. ст. Градзянка, на аўтадарозе Мінск—Магілёў. У 1938—68 гар. пасёлак, 4,8 тыс. жыхароў у 1939. У пач. вайны тут праходзілі баі часцей 20-га механізаванага корпуса з ням.-фаш. захопнікамі за пераправы цераз раку, асабліва жорсткімі яны былі 3.7.1941. 3.7.1941 Б. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, фашысты закатавалі тут у лагеры смерці больш за тысячу сав. грамадзян, за гады акупацыі ў горадзе і раёне яны знішчылі 3181 чал. На тэр. раёна дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б (20.7.1942 — 2.7.1944) і ЛКСМБ (3.7— жн. 1941; 3.9.1942—2.7.1944), выдавалася падп. раенная газ. «Сцяг Леніна», дзейнічала Бярэзінская ваенна-аператыўная група, партыз. брыгады 8-я Рагачоўская, імя Шчорса, «Чырвоны Сцяг», партыз. палкі 15-ы, 208-ы імя Сталіна і 277-ы, асобныя партыз. атрады (25-ы, 115, 278, 345, 620-ы імя Чапаева, «Васільева»), фарміраванні партыз. злучэння «Трынаццаць» (гл. адпаведныя артыкулы), якія не ўваходзілі ў яе. Вызвалена 3.7.1944 у ходзе *Беларускай аперацыі 1944* часцямі 42-й Смаленскай (палк. А. І. *Сліц*) і 153-й (палк. А. А. Шэннікаў) стралк. дывізій 49-й арміі 2-га Бел. фронту. У Б. брацкія магілы сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму, на іх устаноўлены помнікі.

*М. І. Камінскі.*

**БЕ́РЛІНГ** Зігмунт (27.6.1896, г. Ліманова Кракаўскага ваяводства ПНР — 11.7.1980), польскі военачальнік, генерал броні ПНР. Пасля акупацыі Польшчы ням.-фаш. войскамі ў вер. 1939 выехаў у СССР. 22.6.1941 першым падпісаў пісьмо 13 афіцэраў былой польскай арміі сав. ўраду з просьбай даць магчымасць змагацца за сваю радзіму супраць фаш. Германіі. Пасля эвакуацыі з СССР сфарміраванай тут эмігранцкім урадам Польшчы Польскай арміі (Андэрса) Б. у ліку групы патрыятычна настроеных салдат і афіцэраў астаўся ў СССР. У 1943—44 камандзір сфарміраванай у СССР Польскай дывізіі імя Т. Касцюшкі, кіраваў яе дзеяннямі ў кастр. 1943 у баях пад в. Леніна. З жн. 1943 адначасова камандзір 1-га польскага корпуса, у сак.— кастр. 1944 камандуючы Польскай арміяй у СССР, з ліп. 1944 — 1-й арміяй Войска Польскага, у ліп.— кастр. нам. галоўнакамандуючага Войскам Польскім. У 1944—47 на вучобе ў Ваен. акадэміі Генштаба (Масква),

М. А. Белуш. А. А. Белы.





Помнік на могілках вязняў Беразвецкага лагера смерці ва ўрочышчы Барок Глыбоцкага раёна.

у 1948—53 нач. Акадэміі Генштаба Войска Польскага.

**БЕ́СКІН** Ізраіль Саламонавіч (25.11. 1895, Віцебск — 19.1.1964), ген.-лейт. артылерыі (1944). Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1939. У арміі з 1915, у Чырв. Арміі з 1918. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1936). Удзельнік грамадз. вайны, баёў на Кітайска-Усх. чыгунцы ў 1929, сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну ўдзельнік баёў пад Сталінградам, вызвалення Гомеля, Рэчыцы, Калінкавіч, Бабруйска, фарсіравання Дзясны, Сажа, Дняпра, Одэра. Камандуючы артылерыяй 70-й арміі Б. вызначыўся ў час прарыву абароны ворага на Одэры каля Шчэціна. Да 1953 у Сав. Арміі.

І. А. Бельскі. Ф. Ц. Бібік.



**БЕШАНКО́ВІЦКІ ГІСТО́РЫКА-КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты ў 1979. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, размешчана ў 4 залах, пл. 80 м², 540 экспанатаў асн. фонду. Экспануюцца матэрыялы аб абарончых баях у раёне Бешанковіч, аб удзеле землякоў у баях пад Масквой, Ленінградам, Сталінградам. Асобны стэнд прысвечаны земляку Герою Сав. Саюза Л. М. *Даватару.* Расказваецца аб узнікненні і разгортванні падполля і партыз. руху ў раёне (лістоўкі, падп. газета *«Сталінец»*, карта-схема баявых дзеянняў партыз. брыгады «За Савецкую Беларусь», фатаграфіі, дакументы, асабістыя рэчы яе камандзіра Героя Сав. Саюза П. М. *Раманава* і камісара Дз. П. *Падальца,* сакратароў Бешанковіцкіх падп. райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, кіраўнікоў партыз. руху і інш.). Матэрыялы аб вызваленні горада і раёна воінамі 46-й, 71-й і 334-й стралк. дывізій, фатаграфіі, дакументы, асабістыя рэчы военачальнікаў і воінаў-вызваліцеляў. У экспазіцыі — карціны «Абарона Бешанковіч. 1941» і «Паветраны бой К. А. Абазоўскага» (маст. М. Глушко), партрэты землякоў Герояў Сав. Саюза (маст. А. Ільінаў), трыпціх «Акупацыйны рэжым», скульпт. групы «Перамога» і «Вяртанне» (скульпт. А. Гвоздзікаў). Перад будынкам музея бронзавыя бюсты землякоў Герояў Сав. Саюза К. А. *Абазоўскага,* Даватара, М. М. *Ткачэнкі* і Раманава (скульпт. А. Тарасян). *А. В. Крачкоўскі.*

**БЕШАНКО́ВІЧЫ,** гар. пасёлак, цэнтр Бешанковіцкага р-на, прыстань на р. Зах. Дзвіна, за 51 км на З ад Віцебска, 33 км ад чыг. ст. Чашнікі на лініі Орша—Лепель. 4,3 тыс. жыхароў у 1939. У пач. ліпеня 1941 у Б. упартыя баі з фашыстамі вёў 290-ы стралк. полк 186-й стралк. дывізіі, тройчы контратакаваў ворага і скідваў яго ў раку. У баях за Б. полк пацярпеў вял. страты і з баямі адышоў на новыя пазіцыі. 6.7.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія за час акупацыі знішчылі ў Б. і раёне 10276 чал. На тэр. раёна дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б (вер. 1942 — май 1944) і ЛКСМБ (ліп.—вер. 1941, жн. 1942 — ліп. 1944), выдавалася падп. газ. *«Сталінец»*, вялі барацьбу з акупантамі партыз. брыгады 1-я Віцебская (2-га складу), «За Савецкую Беларусь», імя А. Ф. Данукалава, 2-я Беларуская імя Панамарэнкі (2-га складу), імя Леніна, імя Чапаева, Лёзненская і Чашніцкая «Дубава» (гл. адпаведныя артыкулы). Вызвалены 25.6.1944 войскамі 6-й гвардз. (ген.-лейт. І. М. *Чысцякоў*) і 43-й (ген.-лейт. А. П. *Белабародаў*) армій 1-га Прыбалт. фронту ў ходзе *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944.* У Б. брацкая магіла сав. воінаў, якія загінулі ў абарончых баях 1941 і пры вызваленні раёна, магілы ахвяр фашызму і сав. ваеннапалонных, знішчаных ням.-фаш. захопнікамі, на іх устаноўлены помнікі; помнік камсамольцам Б., якія загінулі ў першыя Айч. вайны; курган Славы; гісторыка-краязнаўчы музей. *М. І. Камінскі.*

**БІ́БІК** Фёдар Цярэнцьевіч (1910, в. Майская Мазырскага р-на — 5.5. 1945), поўны кавалер ордэна Славы. На фронце з ліп. 1944. Сапёр яфрэйтар Б. 5.7.1944 на Пн ад г. Ковель зрабіў праход у драцяной загародзе для штурмавой групы; 26.8.1944 на Пн ад Сандаміра (Польшча) пад агнём ворага зрабіў праход у мінным полі для сав. разведчыкаў; 14.1.1945 у час прарыву абароны праціўніка на левым беразе Віслы зрабіў праход у драцяной загародзе і зняў 140 мін. Загінуў у баі.

**БІ́БІКАЎ** Васіль Мікалаевіч (н. 17.1. 1910; г. Слаўгарад Магілёўскай вобл.), ген.-лейт. авіяцыі (1954). Чл. КПСС з 1931. У Чырв. Арміі з 1929. Скончыў Ваен. акадэмію Генштаба (1949). Удзельнік нац.-рэв. вайны ў Іспаніі 1936—39 (зрабіў 78 баявых вылетаў), баёў на р. Халхін-Гол у 1939. З 1940 камандуючы ВПС арміі. З ліп. 1942 камандуючы паветр. армій Далёкаўсх. фронту. Удзельнік разгрому японскай Квантунскай арміі ў 1945. У 1945—61 у ВПС.

**БІРБРА́ЕР** Яўген Абрамавіч (1912, Гомель — 6.10.1943), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1934. Скончыў Ленінградскі ін-т журналістыкі (1934), курсы «Выстрал» (1942). На фронце з 1941. Камандзір мінамётнай роты ст. лейтэнант Б. вызначыўся ў вер. 1943 пры фарсіраванні Дняпра ў Днепрапятроўскай вобл. На захопленым плацдарме рота на чале з Б. мінамётным агнём падтрымлівала пераправу асн. сіл палка, адбіла 12 контратак праціўніка. Загінуў у баі. Пахаваны ў с. Барадаеўка Верхнедняпроўскага р-на Днепрапятроўскай вобл.

**БІРУКО́Ў** Адам Андрэевіч (н. 21.11. 1914, в. Ядраная Слабада Клічаўскага р-на), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсамольска-маладзёжнага падполля і партыз. руху ў Гомельскай і Пінскай абл. Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Чл. КПСС з 1940. Скончыў Рагачоўскі настаўніцкі ін-т (1940), ВПШ пры ЦК КПСС (1958). З 1940 сакратар Рагачоўскага РК ЛКСМБ, чл. Рэвізійнай камісіі ЛКСМБ. З 15.8.1941 сакратар Рагачоўскага падп. РК ЛКСМБ і чл. Рагачоўскага падп. РК КП(б)Б (да 1.6.1943), адначасова з 19.8.1941 — сакратар *Гомельскага падпольнага абкома ЛКСМБ,* з ліст. 1941 камандзір партыз. групы, камісар атрада № 255 (гл. ў арт. *Партызанскі полк 255-ы*). у лютым—ліп. 1943 камісар *партызанскай брыгады 8-й Рагачоўскай.* З 2.8.1943 да 14.7. 1944 1-ы сакратар *Пінскага падпольнага абкома ЛКСМБ,* адначасова з 1.9.1943 да 30.3.1944 чл. Жабчыцкага падп. РК КП(б)Б. У 1944—83 на парт. і гасп. рабоце. Дэп. ВС БССР у 1959—63.

**БІРУКО́Ў** Леанід Паўлавіч (н. 18.2. 1919, в. Нова-Быкава Чарнігаўскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху на тэр. Мінскай вобл. Скончыў Бел. політэхнічны ін-т (1941). У 1942 камандзір падраздзялення на Асобым беларускім зборы. У вер. 1942 накіраваны ў тыл ворага, камандзір арганізатарскай групы. З кастр. 1942 нач. штаба, з 7.6.1944 в. а. камандзіра *партызанскай брыгады «Жалязняк».* З 1944 на адм.-гаспадарчай рабоце. Ганаровы грамадзянін г. п. Бягомль.

**БІРУ́ЛІН** Міхаіл Фёдаравіч (н. 27.9. 1912, в. Любяціна Веліжскага р-на Смаленскай вобл.), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1939. Да Айч. вайны на гасп. і сав. рабоце ў Віцебскай вобл. З лета 1941 у тыле ворага камандзір партыз. групы, з лют. 1942 — атрада, у лютым—ліст. 1943 — *партызанскай брыгады 1-й Віцебскай,* адначасова чл. Віцебскага падп. РК КП(б)Б. Пасля вайны на сав. і гасп. рабоце. Ганаровы грамадзянін Віцебска.

**БІ́ТВА ЗА ДНЯПРО́ 1943,** наступальныя аперацыі сав. войск у жн.— снеж. з мэтай вызвалення Левабярэжнай Украіны, Данбаса, Кіева, выхаду да Кры-

ма і Дняпра, фарсіраванпя яго ў сярэднім цячэнні і захопу плацдармаў на правым беразе. Удзельнічалі франты: Цэнтр. (камандуючы ген. арміі К. К. *Ракасоўскі*), Варонежскі (ген. арміі М. Ф. Ватуцін), Сцяпны (ген. арміі І. С. *Конеў*), Паўд.-Зах. (ген. арміі Р. Я. Маліноўскі) і Паўд. (ген. палк., з 21 вер. ген. арміі Ф. І. Талбухін); з 20 кастр. адпаведна Бел., 1-ы, 2, 3, 4-ы Укр. фраиты. Адначасова Зах. фронт (ген. арміі В. Д. *Сакалоўскі*) і левае крыло Калінінскага фронту (ген. арміі А. І. *Яроменка*) павінны былі наступаць на смаленскім напрамку і не даць ворагу магчымасці перакідваць войскі з гэтага ўчастка.

Гітлераўцы стварылі магутны абарончы стратэгічны рубеж «Усходні вал» па лініі ад вусця Нарвы да Азоўскага мора, у якім асабліва моцная абарона будавалася на правым беразе Дняпра, у яго сярэднім цячэнні. На гэтым рубяжы сав. войскам процістаялі частка сіл групы армій «Цэнтр» (ген.-фельдмаршал Г. Клюге) і асн. сілы групы армій «Поўдзень» (ген.-фельдмаршал Э. Манштэйн). Па развіццю падзей бітва падзяляецца на 2 этапы. На 1-м этапе (жн.—вер. 1943) Чырв. Армія разграміла ням.-фаш. войскі на Левабярэжнай Украіне і ў Данбасе, выйшла да Дняпра ў яго сярэднім цячэнні (ад вусця р. Сож да Запарожжа і на р. Малочная), захапіла шэраг плацдармаў на правым беразе Дняпра і сарвала планы ворага па арганізацыі абароны на гэтым рубяжы. На 2-м этапе (кастр.—снеж. 1943) сав. войскі разграмілі сілы гітлераўцаў у сярэднім і ніжнім цячэнні Дняпра, вызвалілі Кіеў, стварылі плацдармы стратэгічнага значэння і адбілі ўсе спробы ворага аднавіць абарону па Дняпры (гл. таксама *Гомельска-Рэчыцкая аперацыя 1943*).

У ходзе аперацыі вызвалена 38 населеных пунктаў, у т. л. на Беларусі — Гомель, Ветка, Брагін, Добруш, Лоеў, Нароўля, Рэчыца, Хойнікі і інш. Значную дапамогу наступаючым сав. войскам аказалі партыз. атрады і злучэнні Украіны, Гомельскай і Палескай абл. Беларусі. Яны захоплівалі і ўтрымлівалі да моманту фарсіравання сав. часцямі ўчасткі на рэках Дняпро, Дзясна, Прыпяць, Сож, будавалі масты і інш. пераправачныя сродкі, выводзілі са строю чыгункі і гэтым зрывалі планы ворага па перавозцы войск і ваен. грузаў. У выніку дзейнасці партызан на тэр. Беларусі ў жн.—вер. 1943 перавозкі для варожай групы армій «Цэнтр» скараціліся на 40 % (гл. *«Рэйкавая вайна»*). 2438 удзельнікам бітвы прысвоена званне Героя Сав. Саюза, з іх каля 700 чал. вызначыліся на тэр. Беларусі. Фарсіраванне Дняпра адначасова сіламі 4 франтоў з'явілася выдатнай падзеяй Айч. вайны, якая ўзбагаціла Чырв. Армію вопытам пераадолення буйных водных перашкод з ходу. Бітва за Дняпро стварыла ўмовы для поўнага вызвалення Правабярэжнай Украіны і Беларусі.

*А. С. Харэбін.*

**БЛАГАВЕШЧАНСКІ** Аляксей Сяргеевіч (н. 18.10.1909, Брэст), Герой Сав. Саюза (1938), ген.-лейт. авіяцыі (1943). Чл. КПСС з 1939. Скончыў Ленінградскую ваенна-тэарэтычную школу ВПС (1928), Барысаглебскую школу лётчыкаў (1929), курсы ўдасканалення камсаставу пры Ваен. акадэміі Генштаба (1939). Удзельнік нац.-вызв. барацьбы Кітая супраць японскіх захопнікаў у 1937 (зрабіў 73 баявыя вылеты, збіў асабіста 7 і ў групе больш за 20 самалётаў), сав.-фінл. вайны 1939—40. З 1942 на Ленінградскім, Калінінскім, 1-м Прыбалт., 1-м Укр., 3-м Бел. франтах. Камандзір знішчальнага авіякорпуса Б. ў чэрв.-ліп. 1944 удзельнічаў у вызваленні Оршы, Віцебска, Мінска, Маладзечна, Ліды. Да 1960 у Сав. Арміі.

**БЛАГАРАЗУМАЎ** Сяргей Аляксеевіч (1921, Варонеж — 1942), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў *Мінскага камсамольска-маладзёжнага падполля.* Чл. ВЛКСМ. З 1939 камсорг ЦК ВЛКСМ у Беластоцкай вобл. З лета 1941 у акупіраваным Мінску ўключыўся ў падп. барацьбу. У кастр. 1941 па заданні падполля ўладкаваўся на работу ў паліцыю. Арганізатар падп. камсамольскіх груп. Прымаў удзел у выданні газ. *«Звязда»*, лістовак. У маі 1942 перайшоў на нелегальнае становішча, выконваў спец. заданні *Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б.* У кастр. 1942 арыштаваны гітлераўцамі і загублены.

**«БЛІЦКРЫГ»,** гл. *«Маланкавая вайна».*

**БЛУДЗЕНСКАЕ КАМСАМОЛЬСКА-МАЛАДЗЁЖНАЕ ПАДПОЛЛЕ.** Дзейнічала з чэрв. 1941 да ліп. 1944 у в. Блудзень (з 1964 Першамайская) Бярозаўскага р-на. Кіруючае ядро: С. П. Руціч, У. К. Саўчук, В. М. Галецка. Летам 1943 у арганізацыі быў 21 чал.

Падпольшчыкі мелі радыёпрыёмнік, распаўсюджвалі сярод насельніцтва зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі, здабывалі і перадавалі партызанам зброю, патроны, медыкаменты, звесткі разведкі, шылі маскіровачныя халаты. Уладкаваўшыся на работу на чыг. ст. Бяроза-Картузская, патрыёты толькі за 1943 вывелі са строю 15 паравозаў, падпалілі дэпо.

У барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі загінулі: В. С. Барушка, М. С. Барушка, С. С. Барушка, М. С. Жуковіч, М. А. Колас, С. А. Колас, М. Р. Неліповіч, А. І. Нірка, В. І. Пейгановіч, М. А. Пейгановіч, А. В. Радкевіч, У. К. Саўчук, М. К. Хвядчэня. Іх імёны ўвекавечаны на мемарыяльнай дошцы, устаноўленай на будынку ст. Бяроза-Картузская.

*В. С. Лазебнікаў.*

**«БОБРУЙСКИЙ ПАРТИЗАН»,** газета заснавана ў 1918 пад назвай «Известия Бобруйского революционного комитета». У час ням.-фаш. акупацыі орган Бабруйскага падп. РК КП(б)Б. Выдома 35 нумароў за 7.11.1942—29.12.1943 на рус. мове. Рэдактар С. З. Крэмнеў. Пасля вызвалення выдавалася пад наз. «Савецкая Радзіма», з 1954 аднаўлена даваен. наз. «Камуніст», орган Бабруйскіх райкома і гаркома КПБ, раённага і гар. Саветаў нар. дэпутатаў.

**БОБРЫКСКАЯ АПЕРАЦЫЯ 1942,** падрыў партызанамі партыз. злучэння Мінскай і Палескай абл. (гл. ў арт. *Мінскае партызанскае злучэнне*) чыг. моста цераз р. Бобрык на лініі Калінкавічы — Жыткавічы ў Петрыкаўскім р-не 9.12.1942. Кіраваў аперацыяй штаб злучэння. У аперацыі ўдзельнічалі 6 партыз. атрадаў.

40-метровы мост моцна ахоўваўся: 36 чал. каравульных, 4 дзоты з кулямётамі, за 1-м км на чыг. раз'ездзе ўзвод салдат. За 10 км ад моста на ст. Капцэвічы быў размешчаны буйны гарнізон праціўніка — батальён 101-га славацкага палка, рота мадзьяраў, каля сотні ням. жандараў, паліцыя і інш. падраздзяленні. Праціўнік мог атрымаць дапамогу і з інш. гарнізонаў. Перад аперацыяй партызаны звязаліся з нач. штаба 101-га славацкага палка Я. *Налепкай*, які запэўніў, што славакі не ўступяць у бой з партызанамі. У ходзе аперацыі партызаны атрадаў імя Я. Д. Гарбачова (камандзір А. І. Далідовіч) і Капаткевіцкага (камандзір А. А. *Жыгар*) разбурылі чыг. палатно і лініі сувязі на З і на У ад моста, арганізавалі засады на дарогах. Партызаны 125-га атрада (камандзір І. Н. *Гуцько*) знішчылі ахову на раз'ездзе. Байцы атрада Дз. Ц. *Гуляева* на ўчастку Старушкі — Капцэвічы пусцілі пад адхон вайсковы эшалон, які ішоў на У. Партызаны атрадаў імя Гастэлы (камандзір К. Ф. *Пушчын*) і імя Суворава (камандзір М. П. *Бумажкоў*) атакавалі і знішчылі ахову моста, узялі ў палон 13 гітлераўцаў. Падрыўнікі пад кіраўніцтвам У. Шымчонка і Пушчына замініравалі і ўзарвалі мост. Абедзве таўровыя бэлькі былі перабіты ў 2 месцах і скінуты ў ваду, поўнасцю былі разбураны апоры моста. У баі загінуў адзін партызан. У выніку аперацыі быў спынены рух па чыгунцы на 7 сутак.

*М. У. Філімоненкаў.*



Я. А. Бірбраер. А. С. Благавешчанскі.

**БОЛБАС** Аляксандр Карпавіч (н. 28.11.1911, в. Слабодка Бабруйскага р-на), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1940. У 1937—39 вучыўся ў Камуніст. ін-це журналістыкі ў Мінску. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—1940. З 22.6.1941 на Зах., Паўд.-Зах., Сцяпным, Варонежскім, 1-м Укр., 1-м., 2-м і 3-м Прыбалт. франтах, удзельнік абароны Мінска, Бабруйска, Рагачова, Магілёва, Смаленска, Маскоўскай, Сталінградскай, Курскай бітваў, вызвалення Данбаса,

Кіева, Рыгі. У баях каля Кіева ў вер. 1943 капітан Б. замяніў параненага камандзіра батальёна. Байцы батальёна пад яго камандаваннем фарсіравалі Дняпро, з ходу атакавалі праціўніка, захапілі і ўтрымалі плацдарм, што забяспечыла паспяховую пераправу астатніх вайсковых падраздзяленняў. Да 1958 у Сав. Арміі, падпалкоўнік. Ганаровы грамадзянін г. Грабёнка Палтаўскай вобл.

А. К. Болбас. А. М. Бондараў.



**БО́ЛДЗІН** Іван Васілевіч (15.8.1892, в. Высоцкая Інсарскага р-на Мардоўскай АССР — 28.3.1965), ген.-палк. (1944). Чл. КПСС з 1918. У арміі з 1914, удзельнік 1-й сусв. і грамадз. войнаў. Скончыў курсы «Выстрал» (1923), Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1936). Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. З 1940 нам. камандуючага войскамі Зах. асобай ваен. акругі. У пачатку Айч. вайны камандаваў аператыўнай групай войск Зах. фронту, у ліст. 1941—лют. 1945 50-й арміяй, якая ўдзельнічала ў баях пад Масквой, на Курскай дузе, вызваленні Чавус, Магілёва, Гродна, ліквідацыі варожай групоўкі ў *мінскім «катле»*, вызваленні Польшчы, баёў ва Усх. Прусіі. З крас. 1945 нам. камандуючага 3-м Укр. фронтам. Пасля вайны на камандных пасадах у Сав. Арміі. Аўтар успамінаў «Старонкі жыцця» (1961). Яго імем названы вуліцы ў гарадах Быхаў, Гродна, Клімавічы, Магілёў, Слаўгарад, Чавусы, Чэрыкаў, г. п. Хоцімск. Ганаровы грамадзянін Гродна.

**«БОЛЬШЕВИ́К»,** газета, орган Юрацішкаўскага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 6 нумароў за 23.2—16.6.1944 на рус. мове. Рэдактар М. Л. Бікман. Пасля вызвалення ў 1945—60 выдавалася пад назвай «Новае жыццё», орган Юрацішкаўскага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**«БОЛЬШЕВИ́СТСКАЯ ПРА́ВДА»,** газета, орган камандавання і парт. арг-цыі *партызанскай брыгады «Дзядзькі Колі»*. Вядома 36 нумароў за ліст. 1942—29.5.1944 на рус. мове. Рэдактар Д. Ф. Капыткоў.

**БО́НДАРАЎ** Аляксандр Мітрафанавіч (н. 30.5.1923, с. Нікалаеўка Пахвіснеўскага р-на Куйбышаўскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1944. Беларус. Скончыў Куйбышаўскае пяхотнае вучылішча (1942), Куйбышаўскі педінстытут (1954). З 1941 на Калінінскім, Варонежскім, 1-м і 4-м Укр. франтах, удзельнік вызвалення Белграда, Кіева, Прагі. Вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра каля Кіева. Узвод аўтаматчыкаў на чале з лейтэнантам Б. авалодаў вострававам, захапіў плацдарм на правым беразе і адбіваў контратакі ворага да падыходу асн. сіл палка. У баях за Кіеў разам з байцамі ўзвода знішчыў каля роты гітлераўцаў, узяў у палон некалькі ням. афіцэраў. Да 1953 у Сав. Арміі, потым на педагагічнай рабоце.

**БО́НДАРАЎ** Андрэй Лявонцьевіч (20.8. 1901, хутар Бондараў Новааскольскага р-на Белгарадскай вобл.— 23.9. 1961), ген.-лейт. (1943). Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1924. У Чырв. Арміі з 1921. Скончыў Кіеўскую аб'яднаную ваен. школу (1927), Ваен. акадэмію Генштаба (1942). Удзельнік грамадз., сав.-фінл. 1939—40 войнаў. З 1941 на Ленінградскім, Цэнтр., 1-м і 4-м Укр. франтах. Стралковы корпус пад яго камандаваннем вызначыўся пры вызваленні Палескай вобл. У ноч на 22.9.1943 часці корпуса пад агнём праціўніка на падручных сродках фарсіравалі Дняпро каля в. Верхнія Жары Камарынскага р-на; развіваючы наступленне, 23.9.1943 выйшлі да Прыпяці і фарсіравалі яе. Да 1955 у Сав. Арміі.

**БО́РКАВІЦКАЕ ПАТРЫЯТЫ́ЧНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ,** састаўная частка *Сакалішчанскага партыйна-камсамольскага падполля.* Дзейнічала з кастр. 1941 да чэрв. 1942 у в. Боркавічы Дрысенскага (цяпер Верхнядзвінскі) р-на. Кіраўнік чл. КПСС майстар лесараспрацовак І. Р. Каваленка; члены: ваен. ўрач. С. В. Бяляеў, настаўніца М. Р. Зайцава, аграном Ф. А. Жалязнова, работніца Віцебскай панчошнай ф-кі М. В. Марціноўская, калгасніца Г. П. Шанько.

У 1941 падпольшчыкі вывелі са строю лакаматыў, пілараму на лесапільным з-дзе, дзесяткі вагонаў на чыг. станцыі. Для атрымання звестак аб праціўніку Марціноўская ўладкавалася на працу перакладчыцай каменданта. Па даручэнні кіраўніцтва Сакалішчанскага падполля Каваленка дамогся адкрыцця Боркавіцкага медпункта. Пры дапамозе сувязной Шанько з лагера ваеннапалонных Баравуха 1-я былі вызвалены і сталі працаваць у медпункце ўрачы Бяляеў і К. С. Шадурскі. Яны аказвалі дапамогу насельніцтву, забяспечвалі падпольшчыкаў медыкаментамі, неаднаразова зрывалі адпраўку моладзі на катаржныя работы ў Германію, у мед. заключэннях завышалі колькасць захворванняў тыфам сярод насельніцтва. Бяляеў атрымаў пропуск для наведвання хворых у 18 вёсках, што расшырыла яго магчымасць для падп. дзейнасці. Атрымліваючы інфармацыю па радыёпрыёмніку, падпольшчыкі вялі работу сярод мясцовых жыхароў. Яны вызвалілі з лагера ваеннапалонных некалькі камандзіраў Чырв. Арміі. Рыхтуючыся да ўзброенай барацьбы з ворагам, схавалі 2 ручныя кулямёты з дыскамі, гранаты, 12 вінтовак, некалькі тысяч патронаў.

Актыўную дапамогу падпольшчыкам аказвалі б. выкладчык фізкультуры Боркавіцкай сярэдняй школы С. А. Даніловіч, заг. паштовага аддзялення Г. В. Марціноўская, майстар лесараспрацовак А. Я. Папкоўскі, калгасніцы В. І. Лаўручонак, Е. А. Мацецкая, Г. М. Снапок, З. С. Якубава, акружэнец А. Я. Мільцман. У жн. 1942 за лінію фронту адпраўлены ваен. спецыялісты Бяляеў і Мільцман, у партыз. атрад «Баявы» пайшоў Шадурскі. Арыштаваны і загублены фашыстамі І. Р. Каваленка, Ф. А. Жалязнова, М. Р. Зайцава, М. В. Марціноўская.

*Л. А. Папкоўскі.*

**БО́РКІ,** вёска на тэр. Вілейскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2,5 км на У ад в. Малявічы Хаценчыцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 98 чал. 5.5.1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 98 жыхароў, вёску (21 двор) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Ахвяры фашыстаў пахаваны каля спаленай вёскі, у 1955 на магіле ўстаноўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе *Хатынь.*

**БО́РТНАЕ,** вёска на тэр. Асіповіцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1 км на У ад в. Межнае Дарагапаўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 98 чал. У студз. 1943, у час карнай аперацыі *«Франц»*, фашысты загубілі 98 жыхароў, вёску (18 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1967 на месцы вёскі ўстаноўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**БО́ЎКІНСКАЯ АБАРО́НА 1943,** баі *партызанскага палка «Трынаццаць»*, часткі сіл *партызанскага палка 15-га, партызанскай брыгады 17-й*, атрада «Перамога» (гл. *Партызанскі атрад 13-ы*), падраздзяленняў інш. атрадаў супраць ням.-фаш. захопнікаў 5—18.10.1943 у лесе каля в. Боўкі Быхаўскага р-на.

У пач. кастр. гітлераўцы, каб ачысціць свае прыфрантавыя тылы, накіравалі каля 25 тыс. карнікаў супраць партызан і мірных жыхароў, якія знаходзіліся пад аховай партызан у міжрэччы Проні і Дняпра. Партызаны занялі абарону ў Гарадзецкім урочышчы за 4 км на Пд ад в. Боўкі. Да 10 кастр. гітлераўцы не змаглі прарвацца ў лес. 11 кастр. праціўнік сіламі 707-й пяхотнай дывізіі, 747-га, 442, 118, 87-га грэнадзёрскага, 260-га артылерыйскага з прыдадзенымі ахоўнымі і сапёрнымі батальёнамі, авіяэскадрылляй бамбардзіроўшчыкаў уклініўся ў абарону партызан, заняў в. Боўкі, Ветранка, Дабужа, Смаліца, Аляксандрава, Жалезінка і завяршыў акружэнне. Пасля цяжкіх баёў 14 кастр. полк «Трынаццаць» і большая частка цывільнага на-

танк. карпусоў і часцей узмацнення (ген.-лейт. М. І. Казакоў), часці якой 28 вер. вызвалілі г. Ветка. У той жа дзень часці 3-й арміі вызвалілі г. Касцюковічы, часці 50-й арміі — г. Клімавічы, 1 кастр.— г. Чэрыкаў. 29 вер. часці 50-й арміі ва ўзаемадзеянні з часцямі 10-й арміі Зах. фронту вызвалілі г. Крычаў, часці 3-й арміі 1 кастр.— г. п. Краснаполле. З войскамі Чырвонай Арміі ўзаемадзейнічалі партызаны. Да 1—3 кастр. войскі Бранскага фронту выйшлі да рэк Проня, Сож, фарсіравалі Сож і захапілі плацдарм на правым беразе, прарвалі абарончы рубеж ням.-фаш. войск «Пантэра». Былі створаны передумовы для далейшага наступлення сав. войск на гомельскім напрамку. У выніку аперацыі вызвалены ўвесь Бранскі прамысловы раён і частка Беларускай ССР. 11 часцей і злучэнняў атрымалі ганаровыя найменні «Бранскіх», 5 — «Бежыцкіх», 3 — «Крычаўскіх».

*У. І. Лемяшонак.*

**БРА́НСКІ ФРОНТ 1943.** Утвораны 28.3. 1943 на зах. напрамку ў складзе 3-й (ген.-лейт. А. В. Гарбатаў) і 61-й (ген.-лейт. П. А. Бялоў) агульнавайсковых армій і 15-й паветр. арміі (ген.-лейт. авіяцыі М. Ф. Навуменка). 29.4.1943 у склад фронту ўвайшлі 63-я (ген.-лейт. У. Я. Калпакчы), 17.8.1943 — 50-я (ген.-лейт. І. В. Болдзін) арміі. Пасля ў яго склад уваходзілі 11-я (ген.-лейт. І. І. Фядзюнінскі) і 11-я гвардз. (ген.-лейт. І. Х. Баграмян) агульнавайсковыя, 3-я гвардз. (ген.-лейт. П. С. Рыбалка) і 4-я (ген.-лейт. В. М. Баданаў) танкавыя арміі. У ліп.— жн. 1943, удзельнічаючы ў Курскай бітве, Б. ф. ва ўзаемадзеянні з войскамі левага крыла Зах. фронту і правага крыла Цэнтр. фронту правёў Арлоўскую аперацыю. У ходзе *Бранскай аперацыі 1943* у вер. 1943 войскі фронту вызвалілі Бранскі прамысловы раён і ўсх. раёны БССР, у т. л. раённыя цэнтры Хоцімск, Клімавічы, Касцюковічы і Крычаў. 10.10.1943 Б. ф. расфарміраваны. Яго 3-я, 11, 50, 63-я арміі перададзены ў склад Цэнтр. фронту, упраўленне фронту выкарыстана для фарміравання ўпраўлення Прыбалтыйскага фронту, у склад якога перададзены 11-я гвардз. і 15-я паветр. арміі.

Камандуючыя фронту: ген.-палк. М. А. Рэйтар (28.3 —5.6.1943), ген.-палк., з 26.8.1943 ген. арміі М. М. Папоў (6.6 —10.10.1943). Члены ваен. савета: ген.-лейт. І. З. Сусайкаў, з 7.7.1943 ген.-лейт. Л. З. Мехліс; нач. штаба ген.-лейт. Л. М. Сандалаў.

*М. І. Камінскі.*

**БРА́НЬСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ МІЖРАЙКО́М КП(б)Б.** Дзейнічаў з снеж. 1943 да 17.7.1944 пад кіраўніцтвам *Беластоцкага падпольнага абкома КП(б)Б.* Узначальваў падп. і партыз. барацьбу супраць ням.-фаш. захопнікаў, праводзіў паліт. і арганізатарскую работу сярод насельніцтва Бельскага, Браньскага, Цехановецкага р-наў. Накіроўваў дзейнасць Браньскага, Бельскага, Цехановецкага падп. райкомаў ЛКСМБ. Сакратар міжрайкома М. Л. *Карабань*, член — Ф. М. Кізіла (з 5.4.1944). Друкаваны орган — газ. *«Вперёд, на врага»*. Базіраваўся ў *партызанскім атрадзе імя Багдана Хмяльніцкага.*

*М. І. Эпалетаў.*

**БРА́СЛАЎ,** горад, цэнтр Браслаўскага р-на, на беразе воз. Дрывяты. За 220 км на З ад Віцебска, за 30 км ад чыг. ст. Друя, аўтадарогамі злучаны з Друяй, Міёрамі, Шаркоўшчынай, Відзамі, Даўгаўпілсам. 4,9 тыс. жыхароў у 1939. 27.6.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, разбураны. У горадзе і раёне акупанты загубілі 5456 чал. Дзейнічала *Браслаўскае патрыятычнае падполле.* Падпольную работу ў горадзе праводзілі таксама члены *Азяраўскага камсамольска-маладзёжнага падполля.* У Б. і раёне дзейнічалі Браслаўскія падп. райкомы КП(б)Б (14.9. 1943—2.7.1944) і ЛКСМБ (14.9. 1943—2.7.1944), *партызанская брыгада імя Г. К. Жукава,* выдаваліся падп. газеты *«Чырвоны сцяг», «Смерть фашизму».* Вызвалены 6.7. 1944 воінамі 166-й стралк. дывізіі (ген.-маёр А. І. Светлякоў) 2-га гвардз. стралк. корпуса (ген.-лейт. А. С. Ксенафонтаў) 6-й гвардз. арміі 1-га Прыбалт. фронту ў ходзе *Шаўляйскай аперацыі 1944* і партызанамі брыгады імя Жукава (камандзір П. Я. *Сырамаха*). У Б. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, на якой пастаўлены помнік, мемар. дошка падпольшчыкам

*В. С. Паваліхіна.*

**БРА́СЛАЎСКАЕ ПАТРЫЯТЫ́ЧНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з вер. 1942 да ліп. 1944 у Браславе. Аб'ядноўвала 13 чал. Арганізатары і кіраўнікі: А. А. Васілеўскі (да вер. 1943), Э. А. Ціранаў. У складзе групы: Т. У. Брылевіч, М. П. Брылевіч, Дз. А. Васілеўскі, У. Ю. Відаўскі, І. А. Дубінка, І. М. Елізараў, М. Л. Зайцаў, М. П. Зінькевіч, К. А. Зінькоў, П. І. Лук'янец, А. Я. Пракаповіч. Падпольшчыкі вялі антыфаш. прапаганду, здабывалі дакументы, звесткі пра склад і колькасць варожых гарнізонаў, месцазнаходжанне вайсковых складоў і казарм, інш. звесткі і перадавалі іх партызанам, здабывалі для партызан зброю, боепрыпасы і медыкаменты, выратавалі ад фаш. расправы каля 150 парт. і сав. работнікаў, ваеннапалонных. Выконвалі заданні партыз. атрада, потым *партызанскай брыгады «За Радзіму»,* з 1943 *партызанскай брыгады імя Г. К. Жукава.* Трымалі сувязь з *Азяраўскім камсамольска-маладзёжным падполлем.* У барацьбе з акупантамі загінулі:






Помнік на вайсковых могілках каля в. Тропіна Шумілінскага раёна.

А. А. Васілеўскі, М. Л. Зайцаў, К. А. Зінькоў. Дз. А. Васілеўскі прайшоў канцлагеры Асвенцім, Майданак. У 1975 у памяць пра дзейнасць падполля ў Браславе ўстаноўлена мемар. дошка. *І. Ф. Клімаў.*

**БРА́ТКІ,** вёска на тэр. Жлобінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2,5 км на Пд ад в. Кароткавічы. Перад вайной у ёй жыло 52 чал. У кастр. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 27 жыхароў, вёску (10 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь і на помніку спаленым вёскам сельсавета ў в. Кароткавічы.

**БРА́ТЧЫКАЎ** Генадзь Іванавіч (10.3. 1914, в. Міхееўка Кудымкарскага р-на Пермскай вобл.—10.12.1944), удзельнік партыз. руху ў Брэсцкай і Гродзенскай абл. Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1940. У сак. 1943 на чале групы разведчыкаў закінуты ў тыл ворага, дзейнічаў у раёне Гомеля, Чарнігава, Шчорса, Ноўгарад-Северскага. З снеж. 1943 група пад кіраўніцтвам маёра Б. вяла разведку ў Баранавічах, Ваўкавыску, Слоніме, Бярозе, Ружанах, перадала ў штаб 1-га Бел. фронту больш за 450 данясенняў. З вер. 1944 разведчыкі дзейнічалі ў польскіх гарадах Млава, Плонск, Рыпін, Цеханаў. Загінуў у баі.

**БРА́ЦКІЯ МАГІЛЫ.** Пахаванні загінуўшых у ходзе ваен. дзеянняў ці памершых ад ран сав. воінаў, партызан і падпольшчыкаў, а таксама сав. ваеннапалонных, мірных жыхароў — ахвяр фашызму. Усяго на Беларусі 5575 Б. м. (гл. табл.). Найбольш масавыя пахаванні: у Мінску па вул. Талбухіна — 10 тыс. сав. воінаў, партызан і мірных жыхароў, каля былой в. Масюкоўшчына — больш за 80 тыс. чал. (гл. *Масюкоўшчынскі лагер смерці*), на 9-м км Маскоўскай шашы — 30 тыс. сав. ваеннапалонных, партызан і мірных жыхароў; у Мінскай вобл.— у в. Баравая Мінскага р-на — 30 тыс. сав. ваеннапалонных, партызан, падпольшчыкаў і мірных жыхароў. у г. Слуцк у 3 Б. м.— 14 тыс. сав. воінаў, партызан, ваеннапалонных і мірных жыхароў, у г. Барысаў — 10 тыс. сав. ваеннапалонных; у Брэсцкай вобл.— у Брэсце (4-ы км шашы Брэст — Ковель) — 15 тыс. сав. ваеннапалонных і мірных жыхароў, на ст. Лясная Баранавіцкага р-на — 50 тыс. сав. ваеннапалонных і мірных жыхароў; у Віцебскай вобл.— у Віцебску — 20 тыс. мірных жыхароў, у в. Баравуха 1-я Полацкага р-на — больш за 18 тыс. сав. ваеннапалонных, партызан і мірных жыхароў, у в. Заронава Віцебскага р-на — 4,4 тыс. сав. воінаў і партызан; у Гомельскай вобл.— у г. п. Брагін — 8 тыс. мірных жыхароў, у в. Высокі Полк Светлагорскага р-на — 4,2 тыс. мірных жыхароў; у Гродзенскай вобл.— у г. Слонім у 8 Б. м.— каля 30 тыс. мірных жыхароў, у в. Скрыдлева Навагрудскага р-на ў 2 Б. м.— 24 тыс. мірных жыхароў, у в. Пятралевічы 1-я Слонімскага р-на — больш за 10 тыс. мірных жыхароў, у Магілёўскай вобл.— у г. Горкі — 10 тыс. падпольшчыкаў і мірных жыхароў, у в. Слабодка Бабруйскага р-на — 10 тыс. мірных жыхароў. У шэрагу выпадкаў з некалькіх Б. м. ствараліся брацкія могілкі, рабіліся і адзіночныя пахаванні. Ахоўваюцца дзяржавай. Пасля вайны ў радзе месцаў рабіліся перапахаванні з адзіночных магіл у Б. м. На Б. м. і могілках пастаўлены помнікі, створаны мемарыялы (гл. таксама *Помнікі і мемарыялы*).

Брацкія магілы

| Вобласці | Брацкія магілы савецкіх воінаў, партызан і падпольшчыкаў, ваеннапалонных | Адзіночныя магілы воінаў, партызан і падпольшчыкаў | Магілы мірных жыхароў — ахвяр фашызму | Агульная колькасць магіл | Колькасць пахаваных | З іх вядомы імёны |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Брэсцкая | 416 | 122 | 211 | 749 | 51868 | 10297 |
| Віцебская | 547 | 234 | 163 | 944 | 260059 | 111000 |
| Гомельская | 506 | 238 | 151 | 895 | 93334 | 71098 |
| Гродзенская | 181 | 31 | 93 | 305 | 47036 | 5972 |
| Магілёўская | 657 | 178 | 104 | 939 | 221000 | 33000 |
| Мінская | 890 | 395 | 232 | 1517 | 386877 | 87823 |
| Мінск | 58 | 162 | 6 | 226 | | |
| Усяго | 3255 | 1360 | 960 | 5575 | 1060174 | 319190 |

**БРО́ННАЯ ГАРА́,** месца масавай загубы ням.-фаш. акупантамі мірнага сав. насельніцтва (каля чыг. ст. Бронная Гара Бярозаўскага р-на).

У маі — чэрв. 1942 ва ўрочышчы выкапана 8 ям даўжынёй 45—60 м, шырынёй 6—6,5 м, глыбінёй 3—4 м; іх абнеслі калючым дротам. З Драгічына, Іванава, Гарадца, Брэста, Пінска, Кобрына, Бярозы-Картузскай на спецыяльна пабудаваную гітлераўцамі чыг. ветку, якая праходзіла ад цэнтр. магістралі праз пляцоўку з ямамі-магіламі, дастаўлялі эшалоны з сав. грамадзянамі, пераважна з жанчынамі, дзецьмі, старымі. На спец. пляцоўках людзей прымушалі распранацца, па драцяных калідорах гналі да ям, загадвалі класціся радамі і расстрэльвалі з аўтаматаў.

Да ліст. 1942 тут загублена больш за 50 тыс. чал. Каб замесці сляды сваіх злачынстваў, у сак. 1944 гітлераўцы прыгналі сюды 100 палонных, якія 2 тыдні раскопвалі і палілі трупы. Потым расстралялі і спалілі і тых, хто выконваў гэтыя работы. На ўшанаванне памяці ахвяр фаш. тэрору пастаўлены абеліск.

**БРО́ННІКАЎ** Міхаіл Максімавіч (14.10. 1911, в. Лапцеўшчына Лябяжскага р-на Кіраўскай вобл.— 14.11.1983), Герой Сав. Саюза (1944), ген.-маёр (1963). Чл. КПСС з 1932. У Чырв. Арміі з 1933. Скончыў Ваенна-паліт. акадэмію імя Леніна (1941). На



Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан у г. Маларыта.

фронце з 1941. Начальнік палітаддзела стралк. дывізіі палк. Б. вызначыўся ў баях за вызваленне Віцебскай вобл. 24.6.1944 пры фарсіраванні Зах. Дзвіны ў в. Буй Бешанковіцкага р-на пад варожым агнём з першымі падраздзяленнямі пераправіўся цераз раку, кіраваў пераправай. Дывізія захапіла і ўтрымала

плацдарм. За гэту аперацыю Б. і 48 воінам дывізіі прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Да 1969 у Сав. Арміі.

**БРУЙ** Фёдар Піліпавіч (19.9.1907, в. Іванскія Агароднікі Слуцкага р-на — 17.1.1982), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1937. У Чырв. Арміі з 1929. Скончыў курсы «Выстрал» (1942). З вер. 1942 на Варонежскім, 1-м Укр. франтах. Удзельнік баёў на Курскай дузе. Камандзір батальёна маёр Б. вызначыўся пры вызваленні Украіны. У вер. 1943 удзельнічаў у вызваленні г. Ромны (Сумская вобл.). На падыходзе да Кіева 25—28.9.1943 батальён пад яго камандаваннем вызваліў некалькі населеных пунктаў, каля горада прарваўся на Труханаў востраў, 2 дні вёў агонь па ворагу ў Кіеве, фарсіраваў Дняпро, на плацдарме адбіў 10 контратак. Двойчы паранены, Б. поля бою не пакінуў. Да 1955 у Сав. Арміі, падпалкоўнік. Ганаровы грамадзянін г. Слуцк.

Г. І. Братчыкаў. Ф. П. Бруй.



**БРЫЛЕЎ** Мікіта Рыгоравіч (27.5.1896, в. Лучын Рагачоўскага р-на — 16.8.1955), ген.-лейт. (1945). Чл. КПСС з 1939. У арміі з 1914, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Сярэднеазіяцкі ун-т (Ташкент, 1924), Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1933). З ліп. 1941 на Зах., Бранскім, Цэнтр., Бел., 1-м і 2-м Бел., 4-м Укр. франтах: нам. камандзіра і камандзір дывізіі, нач. штаба арміі. Удзельнік абароны Масквы, вызвалення Чавусаў, Слаўгарада, Рагачова, Магілёва, Мінска, Гродна, Чэхаславакіі. Пасля вайны да 1953 у Сав. Арміі.

**БРЫ́НСКІ** Антон Пятровіч (н. 23.6.1906, с. Андрэеўка Чамеравецкага р-на Хмяльніцкай вобл.), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху, пісьменнік. Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1927. Скончыў Камянец-Падольскую саўпартшколу (1926), курсы «Выстрал» (1945). У Чырв. Арміі з 1928. З кастр. 1941 камандзір дыверсійна-разведвальнага атрада, які дзейнічаў на чыгунцы Орша — Барысаў, Брэсцкім, Баранавіцкім Лунінецкім чыг. вузлах, стварыў партыз. атрады, групы. З ліст. 1942 у зах. абласцях Украіны, з 1943 камандзір партыз. злучэння асобага прызначэння. Да 1955 у Сав. Арміі, палкоўнік. Аўтар кніг «Па той бок фронту» (кн. 1—2, 1966), «Баявыя спадарожнікі мае» (2 выд., 1969), «Дзяўчынка з Мар'інага гаю» (1973) і інш.

**БРЫЧО́НАК** Роберт Іванавіч (17.1.1893, Пецярбург — 5.2.1972), ген.-лейт. артылерыі (1945). Чл. КПСС з 1937. Беларус. Скончыў тэхн. вучылішча (1912), кав. вучылішча (1915). У Чырв. гвардыі з 1917, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз., сав.-фінл. 1939—40 войнаў. У Айч. вайну з 1941 на Паўд., Волхаўскім, Ленінградскім, 4-м Укр. франтах: нач. артылерыі дывізіі, камандуючы артылерыяй арміі. Удзельнік абароны Ленінграда, вызвалення Польшчы. У 1946—53 нач. арт. вучылішча.

**«БРЭСЛАЎ»** («Breslau», у некаторых крыніцах № 36), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў у Быхаўскім р-не 5—19.9.1942. Мэта — акружэнне і знішчэнне партызан і «ўціхаміранне» раёна абапал шашы і чыгункі Магілёў — Рагачоў.

Праводзілася сіламі 5 батальёнаў вермахта, магчыма, падраздзяленнямі 2-га палявога вучэбнага палка ВПС, які знаходзіўся ў Быхаве, дапаможнымі паліцэйскімі падраздзяленнямі. Яшчэ 29.8.1942 кіраўніцтва паліцыі бяспекі і СД на Беларусі з непакоем паведамляла аб дзёрзкіх і выніковых ударах добра ўзброеных і абучаных партызан па фаш. гарнізонах у вёсках Прыбар і Ніканавічы. У ходзе аперацыі каля в. Ухлясць карнікі зноў атрымалі адпор, адзначыўшы ў сваіх данясеннях працяглы бой з буйным падраздзяленнем «у вайсковай экіпіроўцы». Назва партыз. фарміравання, якое дзейнічала ў гэтым раёне ў жн.— вер. 1942, не ўстаноўлена, магчыма, гэта былі спец. дэсантныя групы. Акружыць і знішчыць партызан у ходзе аперацыі «Б.» гітлераўцам не ўдалося. У раёне аперацыі фашысты знішчылі больш за 1000 сав. грамадзян. У справаздачы аб дзейнасці каманд у раёне аперацыі гаварылася, што «было асоба апрацавана» з 1 па 15.9.1942 каля 400 камуністаў і партызан, больш за 300 цыган, каля 50 душэўнахворых». *У. С. Пасэ.*

**БРЭСТ,** горад, цэнтр Брэсцкай вобл., на р. Мухавец, пры ўпадзенні яе ў р. Зах. Буг. За 346 км на ПдЗ ад Мінска. Эканамічны і культурны цэнтр, вузел чыгунак (лініі на Маскву, Кіеў, Варшаву) і аўтадарог. Рачны порт, звязаны Дняпроўска-Бугскім каналам з басейнамі Дняпра і Прыпяці. Аэрапорт. Падзяляецца на 2 раёны: Ленінскі і Маскоўскі. 66,8 тыс. жыхароў у 1940. 22.6.1941 Б. адным з першых сав. гарадоў у 4 гадз 15 мін раніцы падвергся раптоўнаму ўдару ням.-фаш. войск — масіраванаму артабстрэлу і паветр. бамбардзіроўцы. На Брэст і ў абход яго наступалі 4 танк. дывізіі 2-й танк. групы, 3 пяхотныя дывізіі 12-га армейскага корпуса 4-й ням. арміі. З моманту пач. вайны сав. воіны і пагранічнікі вялі жорсткія баі з праціўнікам на граніцы, у горадзе (найбольш працяглыя каля будынка ваенкамата і чыг. вакзала) і яго ваколіцах, у Брэсцкай крэпасці (гл. *Брэста абарона 1941, Брэсцкай крэпасці абарона 1941*). Акупіраваны 22.6.1941. За час акупацыі ням.-фаш. захопнікі стварылі ў горадзе 4 канцлагеры з 8 аддзяленнямі і філіяламі, дзе закатавалі 34 тыс. чал., у т. л. 13 тыс. дзяцей, усяго ў вобласці загубілі больш за 83,9 тыс. чал., зруйнавалі ўсе прадпрыемствы і культурна-асветныя ўстановы, 48,7 % жыллёвага фонду, нанеслі нар. гаспадарцы горада страты на суму больш як 303,7 млн. руб. У горадзе дзейнічалі *Брэсцкае партыйнае падполле, Брэсцкае камсамольска-маладзёжнае падполле, Брэсцкая гарадская антыфашысцкая арганізацыя, Брэсцкі падпольны гарком КП(б)Б, Брэсцкі падпольны гарком ЛКСМБ,* у горадзе і раёне — Брэсцкі падп. РК ЛКСМБ (1.8.1943—21.7. 1944), у горадзе і вобласці — *Брэсцкі падпольны абком КП(б)Б, Брэсцкі падпольны абком ЛКСМБ, Брэсцкая абласная антыфашысцкая арганізацыя,* якую ўзначальваў *Брэсцкі абласны антыфашысцкі камітэт,* з чэрв. 1942 працавала падп. друкарня камітэта, выдавалася газ. *«За Родину».* На тэр. вобласці дзейнічалі таксама падп. гарком, 2 міжрайкомы і 10 райкомаў КП(б)Б, 18 райкомаў ЛКСМБ, *Брэсцкае партызанскае злучэнне* (11 брыгад і 12 асобных атрадаў, больш за 13 тыс. партызан) і партыз. атрады, якія не ўваходзілі ў склад злучэння — «Паддубнага» імя Тэльмана (камандзіры В. Т. Канцэндалаў, І. І. Крылоў, В. Кулікаў), імя Тэльмана (камандзір М. І. Каваленка), імя Сталіна, імя Чапаева, С. І. Казлова, імя Варашылава (камандзір Б. М. Міхайлоўскі), імя Варашылава (камандзір І. С. Зайкоў), Кірылы Іванавіча, «Старшыны», І. П. Топкіна, 113-ы, «Гвардыя», «Хадакі» (гл. адпаведныя артыкулы); выдавалася падп. газ. *«Заря».* Вызвалены 28.7.1944 воінамі 48-й гвардз. стралк. дывізіі (ген.-маёр Г. М. Корчыкаў) 20-га стралк. корпуса 28-й арміі, 212-й (палк. У. Г. Кучынёў), 12-й гвардз. (палк. Дз. К. Малькоў), 415-й (палк. П. І. Машчалкоў) стралк. дывізій 9-га гвардз. стралк. корпуса, 38-й гвардз. гарматнай арт. брыгады (палк. А. І. Панамарэнка), 38-й інжынерна-сапёрнай брыгады (палк. А. М. Паўшук) 61-й арміі, 160-й стралк. дывізіі (частка сіл, ген.-маёр М. С. Цімафееў) 114-га стралк. корпуса 70-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе *Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944;* 47 часцям і злучэнням прысвоена ганаровае найменне «Брэсцкіх» (гл. *Брэсцкія вайсковыя злучэнні і часці*). Да дня вызвалення ў горадзе засталося каля 15 тыс. жыхароў.

і 1-га Бел. франтоў: вяла інжынерныя работы, рабіла праходы ў мінных палях, рыхтавала маршруты руху. Пасля перафарміравання (22.5.1944) у 1-ю гвардз. матарызаваную інжынерную брыгаду ўдзельнічала ў *Беларускай аперацыі 1944,* дзе вызначылася пры вызваленні Брэста, ёй нададзена ганаровае найменне «Брэсцкай» (10.8.1944). Забяспечвала наступленне войск у Люблін-Брэсцкай аперацыі, Варшаўска-Пазнанскай і Берлінскай аперацыях, удастоена ганаровага наймення «Берлінскай» (11.6.1945). За час вайны 7487 воінаў брыгады ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР, 1 воіну прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Камандзір брыгады ген.-маёр М. Ф. Іофе.

*М. І. Камінскі.*

**БРЭ́СЦКАЕ КАМСАМО́ЛЬСКА-МАЛАДЗЁЖНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з ліп. 1941 да ліп. 1944 у акупіраваным ням.-фаш. захопнікамі Брэсце пад кіраўніцтвам *Брэсцкага партыйнага падполля* і *Брэсцкага падпольнага гаркома ЛКСМБ.* Першая падп. камсамольская арг-цыя створана ў пач. вайны з вучняў старшых класаў сярэдніх школ горада. Падпольшчыкі прымалі па радыё і распаўсюджвалі сярод насельніцтва зводкі Саўінфармбюро, здабывалі бланкі дакументаў для легалізацыі трапіўшых у акружэнне сав. ваеннаслужачых. Восенню 1941 большасць падпольшчыкаў арыштавана. У жн. 1941 рашэннем гар. парт. к-та створана другая падп. камсамольская арг-цыя, куды ўвайшлі У. А. Несцярэнка (сакратар), Г. А. Аржанава, М. А. Жыгімонт, В. Н. Лупейка, Б. М. Пікус, Л. В. *Папова* (члены бюро), Г. К. Баннікаў, А. В. Касаткіна, В. С. Краўцова, М. М. Панамарова, Ф. Я. Тронкіна, Н. Д. Чарняўская, М. А. Шошчыц. Падп. групы ўзначальвалі Баннікаў, Папова, Пікус, Шошчыц.

Камсамольцы арганізавалі збор зброі, боепрыпасаў, цёплага адзення для партызан, наладжвалі ўцёкі ваеннапалонных, мелі на канспіратыўных кватэрах некалькі радыёпрыёмнікаў, прымалі, размнажалі і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, матэрыялы з сав. газет, рабілі дыверсіі на чыг. вузле, здабывалі разведданыя, медыкаменты. Каб мець доступ да медыкаментаў, накіравалі працаваць у аптэку Аржанаву. Падпольшчыкі наладзілі сувязь з партызанамі, перадалі ім 20 вінтовак, 6 аўтаматаў, 12 скрынак гранат, 17 тыс. патронаў, 120 кг толу; у фонд Чырвонай Арміі сабралі 10 тыс. рублёў грашыма і аблігацыямі.

У 1942 група падпольшчыкаў, у т. л. Несцярэнка, пайшла да партызан, арганізацыю ўзначаліў Баннікаў. На працягу 1941—43 каля 30 камсамольцаў прымалі ўдзел у рабоце парт. падполля або дзейнічалі ў адзіночку. У барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі загінулі Б. Аношкін, Г. А. Аржанава, А. В. Касаткіна, В. С. Краўцова і інш. патрыёты.

*Б. І. Камейша.*

**БРЭ́СЦКАЕ ПАРТЫЗА́НСКАЕ ЗЛУЧЭ́ННЕ.** Створана ў крас.— чэрв. 1943 паводле рашэння *Брэсцкага падпольнага абкома КП(б)Б* на базе асобных атрадаў, якія дзейнічалі на тэр. вобласці. Камандзір сакратар Брэсцкага падп. абкома КП(б)Б С. І. *Сікорскі* (крас. 1943 — ліп. 1944), нач. штаба П. В. Пранягін (крас. 1943 — ліп. 1944). Для барацьбы супраць ням.-фаш. карнікаў у лют. 1944 паводле распараджэння БШПР у паўд. раёнах вобласці створана часовая групоўка партыз. брыгад і атрадаў Паўд. зоны (узначаліў упаўнаважаны штаба партыз. злучэння вобласці П. М. Кавальскі).

Аб'ядноўвала: 11 партыз. брыгад — 8-ю, 99-ю імя Дз. Ц. Гуляева, 150-ю імя Ф. М. Языковіча, «За Радзіму» імя А. К. Флегантава, імя Дзяржынскага, імя Леніна, імя Панамарэнкі, імя Свярдлова, імя Сталіна, імя Чапаева, «Савецкая Беларусь»; 12 асобна дзейных партыз. атрадаў — 345-ы, 347-ы, «За Радзіму», імя Будзённага, імя Катоўскага, імя Кірава, імя Кутузава, імя Шчорса, «Сцяг», «Чэкіст», імя Катоўскага (2-га складу), імя П. Л. Валькова (пра партыз. брыгады і атрады гл. адпаведныя артыкулы). За ўвесь перыяд баявой дзейнасці (крас. 1943 — ліп. 1944) аб'ядноўвала больш за 13 тыс. партызан. З часцямі Чырвонай Арміі брыгады і атрады злучаліся паступова па меры вызвалення раёнаў іх дзеяння. У сак. 1944 злучыліся брыгады і асобныя атрады Паўднёвай зоны, у ліпені — астатнія. С. Г. *Жуніну і* Сікорскаму прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

*А. Л. Манаенкаў.*

**БРЭ́СЦКАЕ ПАРТЫ́ЙНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала са жніўня 1941 да 28.7. 1944 у акупіраваным ням.-фаш. захопнікамі Брэсце. З крас. 1943 работай падполля кіраваў *Брэсцкі падпольны абком КП(б)Б,* з мая 1944 і *Брэсцкі падпольны гарком КП(б)Б.* Ініцыятарам стварэння ў Брэсце падп. парт. арг-цыі стаў даваенны сакратар парткома Брэсцкага чыг. вузла П. Г. *Жулікаў.* Ён далучыў да падп. дзейнасці камуністаў Ф. М. Гаўрылава, Б. С. Дзабіева, М. М. Жыгімонта, І. Б. Сцепаненку, Н. М. Голубева, А. М. Самычэнку і інш. У той самы час Р. С. Радкевіч, якая да вайны працавала інструктарам Брэсцкага гаркома КП(б)Б, арганізавала другую групу, куды ўвайшлі А. Ц. Ароніна, А. М. Бабушкіна, Н. А. Камолава, М. М. Смірнова, А. І. *Хромава,* З. І. Южная і інш. У жн. 1941 на канспіратыўнай сустрэчы прадстаўнікоў гэтых груп быў створаны парт. цэнтр, названы гар. камітэтам партыі. У яго ўвайшлі Жулікаў (1-ы сакратар), Радкевіч (2-гі сакратар), С. Н. Аношын, Дзабіеў, Жыгімонт, Самычэнка. Інструктарамі прызначаны Бабушкіна, Смірнова, Хромава, Южная, прапагандыстамі — Ароніна, Камолава. Першачарговай задачай к-т лічыў работу па наладжванню сувязей з камуністамі, што асталіся ў горадзе, і далучэнню іх да падп. барацьбы. Да канца 1941 на ўлік узяты больш за 100 камуністаў. Падпольная парт. арг-цыя будавалася паводле вытворча-тэр. прынцыпу, складалася з парт. груп, якія ўзначальвалі Голубеў, В. І. Горын, В. Н. Мельнікаў, К. Р. Рэпікаў, Самычэнка (усе загінулі) і інш. Для кіраўніцтва работай моладзі было створана бюро камсам. арг-цыі на чале з У. А. Несцярэнкам. Групамі беспарт. патрыётаў кіравалі камуністы П. Г. Голубева, А. К. Караткова, К. А. Каструбенка, А. І. Літвінава, беспарт. А. А. Горная, М. Я. Жыгімонт, Н. І. Ільіна, Л. І. Кулік, Л. І. Крашэннікава і інш.

Падпольшчыкі арганізавалі прыём, множанне і распаўсюджанне сярод насельніцтва зводак Саўінфармбюро, збор зброі і боепрыпасаў, цёплага адзення і медыкаментаў для партызан, арганізоўвалі ўцёкі ваеннапалонных з фаш. лагераў, забяспечвалі іх дакументамі і адзеннем. Канспіратыўныя кватэры трымалі Грачоў, Зорына, Крашэннікава, Літвінава, В. Н. Марозава, Рэпікаў, Я. М. Сімянкова; на кватэры А. М. Сенакосавай са жн. 1941 хавалі зброю і боепрыпасы. Восенню 1941 наладжана сувязь са Старасельскім партыз. атрадам (пазней імя М. М. Чарнака). У 1-й пал. 1942 25 падпольшчыкаў, якім пагражаў арышт, пайшлі з горада да партызан. У жн. 1942 для кіраўніцтва арг-цыяй створана новае бюро, куды ўвайшлі Жулікаў (сакратар), М. М. Жыгімонт, Дзабіеў, Южная, з чэрв. 1943 і А. Р. Серафімовіч. Летам і восенню 1942 падпольшчыкі сарвалі мерапрыемствы акупацыйных улад па вывазу моладзі ў Германію, рэквізіцыі ў насельніцтва цёплых рэчаў для ням. арміі, сабралі больш за 300 тыс. руб. у фонд абароны краіны. У 1942—43 толькі атраду Чарнака яны перадалі 5 кулямётаў, 6 аўтаматаў, 70 вінтовак, 65 пісталетаў, сотні гранат, больш за 60 тыс. патронаў. У маі 1943 пераправілі *Брэсцкаму міжраённаму «Камітэту барацьбы з нямецкімі акупантамі»* шрыфт і друкарскае абсталяванне. Падпольшчыкі вывелі са строю 6 паравозаў, зрывалі рамонт вагонаў, пуск ліцейнага цэха, псавалі станкі і абсталяванне.

Арышт вясной і восенню 1943 групы падпольшчыкаў нанёс цяжкі ўдар падполлю. Камуністы, якія асталіся жывыя (каля 30 чал.), камсамольцы і антыфашысты працягвалі барацьбу. Брэсцкі падп. абком КП(б)Б праз свайго ўпаўнаважанага З. Ф. Паплаўскага, сувязных В. С. Селівонік, Хромаву і інш. прыняў меры для наладжвання сувязей з уцалелымі ад арыштаў падпольшчыкамі і аказанню ім арганізацыйнай і інш. дапамогі. З кастр. 1943 падп. парт. арг-цыю ўзначаліла Смірнова. У склад бюро ўвайшлі Дзабіеў, Камолава, Літвінава. У горад дастаўлялі газеты «Правда», «Известия», «Заря», баявыя лісткі і інш. паліт. літаратуру. Падпольшчыкі разам з дыверсійнымі групамі партыз. атрадаў імя Чарнака, імя Чкалава і інш., якія дзейнічалі вакол Брэста, правялі шэраг баявых аперацый. Восенню 1943 знішчылі шашэйны мост цераз

р. Мухавец, узарвалі бензакалонку, сапсавалі 3 паравозы ў чыг. дэпо, парахавы склад. 31.12.1943 узарвалі афіцэрскую сталовую і інш. Партыйная арг-цыя кіравала дзейнасцю *Брэсцкага камсамольска-маладзёжнага падполля,* мела сувязь з *Брэсцкай гарадской антыфашысцкай арганізацыяй.*

У барацьбе супраць ням.-фаш. акупантаў загінулі А. П. Быкава, Н. М. Голубеў, А. А. Горная, В. І. Горын, А. В. Горына, М. М. Жыгімонт, П. Г. Жулікаў з сям'ёй, Я. П. Карначык, Л. І. Крашэннікава з сынам, Л. І. Кулік, К. Р. Рэпікаў, А. М. Самычэнка, А. Г. Серафімовіч з сынам, П. М. Шышкуноў.

*Л. В. Аржаева, Б. І. Камейша.*

**БРЭ́СЦКА-ЖА́БІНКАЎСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ МІЖРАЙКО́М КП(б)Б.** Дзейнічаў з 20.6 да 21.7.1944 пад кіраўніцтвам *Брэсцкага падпольнага абкома КП(б)Б.* Узначальваў падп. і партыз. барацьбу супраць ням.-фаш. захопнікаў, праводзіў паліт. і арганізатарскую работу сярод насельніцтва Брэсцкага і Жабінкаўскага р-наў. Накіроўваў дзейнасць Брэсцкага і Жабінкаўскага падп. райкомаў ЛКСМБ. Сакратар міжрайкома М. А. *Саўчук,* члены А. І. Аршынаў, А. С. Вядзмедка. Базіраваўся ў партыз. атрадзе імя Фрунзе (гл. *Партызанская брыгада імя І. В. Сталіна*).

*М. І. Эпалетаў.*

**БРЭ́СЦКАЙ КРЭ́ПАСЦІ АБАРО́НА 1941,** гераічная абарона Брэсцкай крэпасці сав. войскамі ў пачатку вайны (22 чэрв.— канец ліп. 1941).

Брэсцкая крэпасць (на зах. ускраіне Брэста) пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. на месцы старога горада, на астравах, утвораных рэкамі Зах. Буг, Мухавец, іх рукавамі і сістэмай штучных каналаў. Складалася з 4 умацаванняў агульнай пл. 4 км². Цэнтральнае ўмацаванне — Цытадэль — пяцівугольная замкнёная 2-павярховая абарончая казарма перыметрам 1,8 км, з сценамі амаль 2-метровай таўшчыні, з байніцамі, амбразурамі і казематамі. Перадмаставыя ўмацаванні (з рэдзюітамі, сістэмай бастыёнаў і валоў) прыкрывалі падыходы да Цытадэлі і былі звязаны з ёю варотамі і мастамі: Цярэспальскае ўмацаванне — Цярэспальскімі варотамі і мостам цераз Зах. Буг, Валынскае — Холмскімі варотамі і пад'ёмным мостам цераз Мухавец, Кобрынскае — Брэсцкімі і Брыгіцкімі варотамі і мастамі цераз Мухавец. З паявленнем мабільнасці і тэхн. ўзбраення армій крэпасць як ваеннаабарончае збудаванне страціла сваё значэнне.

На пачатак вайны ў крэпасці дыслацыраваліся часці 6-й і 42-й стралк. дывізій 4-й арміі, падраздзяленні 17-га Брэсцкага пагранатрада, 33-га асобнага інжынернага палка, частка 132-га батальёна войск НКУС, штабы часцей. Некаторыя часці або іх падраздзяленні знаходзіліся ў лагерах, на палігонах, на будаўніцтве ўмацаванага раёна. У крэпасці жылі сем'і ваеннаслужачых. У першыя гадзіны вайны Брэст і крэпасць былі падвергнуты масіраванаму артабстрэлу і авіябамбардзіроўцы. У выніку большасць складоў, інш. ваен. аб'ектаў, водаправод былі разбураны, перарвана сувязь; значная частка байцоў і камандзіраў выведзена са строю, гарнізон крэпасці расчлянёны на асобныя групы. Цяжкія баі разгарнуліся на граніцы, у горадзе і крэпасці. Штурмавала Брэсцкую крэпасць ням. 45-я пяхотная дывізія (каля 17 тыс. салдат і афіцэраў) ва ўзаемадзеянні з 31-й і 34-й пяхотнымі дывізіямі 12-га армейскага корпуса 4-й ням. арміі, а таксама 2 танк. дывізіі 2-й танк. групы Гудэрыяна пры падтрымцы авіяцыі і часцей узмацнення, якія мелі на ўзбраенні цяжкія арт. сістэмы. Праціўнік ставіў за мэту, выкарыстаўшы раптоўнасць нападу, захапіць Цытадэль, потым інш. ўмацаванні і прымусіць сав. гарнізон да капітуляцыі. Перадавыя часці 45-й ням. дывізіі спрабавалі з ходу авалодаць крэпасцю (паводле плана ням. камандавання да 12 гадзін дня).

Упартае супраціўленне сав. воінаў і пагранічнікаў дало магчымасць раніцай 22 чэрв. выйсці з крэпасці прыблізна палавіне асабовага складу ў раёны сканцэнтравання сваіх часцей, эвакуіраваць першых параненых. У крэпасці засталося 3,5—4 тыс. сав. воінаў.

Праціўнік меў амаль у 10 разоў больш сілы. У першы дзень баёў да 9 гадзін раніцы крэпасць была акружана. Штурмавыя групы ворага праз Цярэспальскае ўмацаванне і мост каля Цярэспальскіх варот прарваліся ў Цытадэль, у цэнтры яе захапілі будынак палкавога клуба (там пакінулі карэкціроўшчыкаў арт. агню). Адначасова праціўнік развіў наступленне ў напрамку Холмскіх і Брэсцкіх варот, мяркуючы злучыцца з групамі, што наступалі з боку Валынскага і Кобрынскага ўмацаванняў. Вораг быў выбіты з Цытадэлі. Толькі нешматлікія ням. аўтаматчыкі схаваліся ў будынках клуба і сталоўкі начсаставу (на другі дзень былі знішчаны), якія ў далейшым не раз пераходзілі з рук у рукі. Праціўнік захапіў і некалькі казематаў апусцелых казармаў 132-га батальёна.

На працягу першага дня абаронцы Цытадэлі адбілі 8 жорсткіх атак пяхоты ворага. Бai ў крэпасці прынялі зацяжны характар, чаго не чакаў праціўнік. Амаль адначасова бai разгарнуліся на тэр. усіх умацаванняў. Абаронцаў узначалілі камандзіры і палітработнікі, у асобных выпадках — радавыя байцы. На тэр. Цярэспальскага ўмацавання абарону ўзначалілі ст. лейт. Ф. М. Мельнікаў і А. С. Чорны, лейт. Жданаў. Пагранічнікі ачысцілі ад праціўніка большую частку тэр. ўмацавання, аднак з-за недахопу боепрыпасаў і вялікіх страт у асабовым складзе ўтрымаць яе не маглі. У ноч на 25 і 30 чэрв. яны групамі фарсіравалі Зах. Буг і далучыліся да абаронцаў Цытадэлі і Кобрынскага ўмацавання.

На Валынскім умацаванні размяшчаліся шпіталі, медыка-сан. батальён, знаходзілася частка асабовага складу палкавой школы малодшых камандзіраў 84-га стралк. палка, нарады 9-й погранзаставы. Абарону ў межах шпіталя арганізавалі батальённы камісар М. С. Багацееў і ваенурач 2-га рангу С. С. Бабкін, на астатняй тэрыторыі яна мела



Цытадэль Брэсцкай крэпасці. Абарончая казарма.

ачаговы характар і працягвалася да канца тыдня. Некаторыя байцы ўліліся ў рады абаронцаў Цытадэлі, нямногія прабіліся з варожага акружэння.

У Цытадэлі — самым буйным вузле абароны — да канца дня 22 чэрв. вызначыліся асобныя ўчасткі абароны: у раёне Цярэспальскіх варот яе ўзначалілі нач. 9-й пагранзаставы А. М. *Кіжаватаў*, лейтэнанты А. Я. Патапаў і А. С. Санін, ст. лейт. М. Г. Сямёнаў (з 333-га стралк. палка), камандзір 31-га аўтабата Я. Дз. Мінакоў, воіны 132-га батальёна — малодшы сяржант К. А. Новікаў, групу байцоў у башні Цярэспальскіх варот — лейт. А. Ф. *Нагаеў*. У паўн. часцы абарончай казармы змагаліся з ворагам байцы 44-га стралк. палка пад камандаваннем капітана І. М. Зубачова, ст. лейт. А. П. Семяненка і В. І. Бытко, каля Брэсцкіх варот — воіны 455-га стралк. палка пад камандаваннем лейт. А. А. Вінаградава і палітрука П. П. Кашкарова. Кіраўніцтва абаронай у казарме 33-га асобнага інжынернага палка ўзначаліў ст. лейт. М. Ф. Шчарбакоў, у раёне Белага палаца — лейт. А. М. Нагай і радавы А. К. Шугураў, у раёне размяшчэння 84-га стралк. палка, будынку Інжынернага ўпраўлення — палкавы камісар Я. М. *Фамін*. 24 чэрв. на нарадзе камандзіраў і палітработнікаў вырашана было стварыць зводную баявую групу. Паводле загада № 1 камандзірам групы прызначаны капітан Зубачоў, яго намеснікам — палкавы камісар Фамін. Практычна яны змаглі ўзначаліць абарону толькі ў Цытадэлі. Штаб у сваёй дзейнасці апіраўся на камуністаў, камсамольцаў, парт. арг-цыі, якія ствараліся ў ходзе баёў. Паводле рашэння камандавання былі зроблены спробы прарваць кальцо акружэння, аднак беспаспяхова.

На Кобрынскім умацаванні ў раёне Зах. форта і дамоў начсаставу абарону, якая працягвалася 3 дні, узначалілі капітан У. В. *Шаблоўскі* і ст. палітрук І. М. Пачэрнікаў. У раёне Усх. варот амаль 2 тыдні змагаліся байцы 98-га асобнага процітанк. арт. дывізіёна на чале з лейт. І. П. Акімачкіным і ст. палітруком М. В. Несцерчуком. У паўн. часцы галоўнага вала і ў раёне Паўночных варот 2 дні стрымлівалі ворага сав. воіны, потым адышлі ва Усх. рэдзюіт (форт), дзе абарону трымалі байцы 393-га асобнага зенітна-арт. дывізіёна, 333-га стралк. палка, воіны інш. часцей (каля 400 байцоў і камандзіраў) пад кіраўніцтвам маёра П. М. *Гаўрылава*, палітрука С. С. Скрыпніка, капітана К. Ф. Касаткіна. У ходзе баёў была створана парт. арг-цыя, разгорнуты лазарэт, які ўзначаліла лейт. мед. службы Р. І. Абакумава. Знаходзячыся ў поўным акружэнні, без вады і прадуктаў, пры вострай нястачы боепрыпасаў і медыкаментаў, гарнізон мужна змагаўся з ворагам. Савецкія воіны адбівалі па 6—8 атак кожны дзень. Разам з байцамі былі жанчыны і дзеці. Яны дапамагалі параненым, падносілі патроны, удзельнічалі ў баях. Толькі за першыя 9 дзён абаронцы крэпасці вывелі са строю каля 1,5 тыс. салдат і афіцэраў праціўніка. Да канца чэрв. вораг захапіў большую ч. тэр. крэпасці. 29 і 30 чэрв. гітлераўцы вялі бесперапынны двухсутачны штурм з выкарыстаннем 500- і 1800-кілаграмовых авіябомбаў. У выніку кровапралітных баёў і вял. страт абарона распалася на шэраг ізаляваных ачагоў супраціўлення. Да 12 ліп. ва Усх. форце вяла баі група сав. байцоў, пазней, вырваўшыся з форта, яна змагалася ў капаніры за знешнім валам умацавання. Цяжка параненыя Гаўрылаў і нам. палітрука Р. Д. Дзеравянка трапілі ў палон 23 ліпеня. Сав. воіны працягвалі




ВАЖНЕЙШЫЯ ЎЧАСТКІ АБАРОНЫ КРЭПАСЦІ 22 чэрвеня–канец ліпеня 1941 г.

1 Усходнія вароты
2 Усходняя частка галоўнага вала
3 Усходні рэдзюіт (форт)
4 Паўночныя вароты
5 Дамы начсаставу
6 Заходні рэдзюіт (форт)
7 Размяшчэнне 125-га стралковага палка
8 Паўночна-заходнія вароты
9 Руіны Белага палаца
10 Казарма 33-га асобнага інжынернага палка
11 Руіны Брэсцкіх (Трохарачных) варот
12 Руіны казармы 455-га стралковага палка
13 Руіны клуба 84-га стралковага палка
14 Руіны будынка Інжынернага ўпраўлення
15 Руіны казармы 44-га стралковага палка
16 Брыгіцкія вароты
17 Цярэспальскія вароты
18 Руіны казармы 333-га стралковага палка
19 Руіны казармы пагранічнікаў
20 Участак казармы 132-га асобнага батальёна ўнутраных войск НКУС
21 Холмскія вароты
22 Участак казармы 84-га стралковага палка
23 Група лейтэнанта Жданава
24 Участак абароны групы старшага лейтэнанта Ф. М. Мельнікава
25 Участак абароны групы старшага лейтэнанта А. С. Чорнага
26 Варшаўскі праезд
27 Руіны шпіталя
28 Будынак школы малодшых камандзіраў 84-га стралковага палка
29 Паўднёвыя вароты

...агацца з ворагам і пасля 20-га ліп., апошнія дні барацьбы авеяны легендамі. Да гэтых дзён адносяцца надпісы, што пакінулі на сценах крэпасці яе абаронцы: «Памром, але з крэпасці не пойдзем», «Я паміраю, але не здаюся. Бывай, Радзіма. 20.VII.41 г.». Абарона крэпасці — прыклад мужнасці і стойкасці сав. народа ў барацьбе за свабоду і незалежнасць Радзімы. Абаронцы крэпасці — воіны больш як 30 нацыянальнасцей СССР — да канца выканалі свой абавязак перад Радзімай, здзейснілі адзін з найвялікшых подзвігаў сав. народа ў гісторыі Вял. Айчыннай вайны. Удзельнікі абароны ўзнагароджаны ардэнамі і медалямі, званне Героя Сав. Саюза прысвоена маёру Гаўрылаву і лейт. Кіжаватаву. 8.5.1965 крэпасці прысвоена ганаровае званне «Крэпасць-герой» з уручэннем ордэна Леніна і медаля «Залатая Зорка». На тэр. крэпасці створаны *Брэсцкай крэпасці-героя музей*, адкрыты мемар. комплекс *Брэсцкая крэпасць-герой*, адна з вуліц горада названа вуліцай Герояў абароны Брэсцкай крэпасці. *Т. М. Ходцава.*



Приказ № 1.

...крепость

Создавшаяся обстановка в крепости требует единого руководства

...

полковой комиссар Фомин

капитан Зубачёв

лейтенант Виноградов

Загад № 1 па гарнізоне Брэсцкай крэпасці ад 24.6.1941.



Фрагмент экспазіцыі Музея абароны Брэсцкай крэпасці-героя.

**БРЭ́СЦКАЙ КРЭ́ПАСЦІ-ГЕРО́Я МУЗЕ́Й,** Музей абароны Брэсцкай крэпасці. Адкрыты 8.11.1956. Састаўная частка мемар. комплексу *Брэсцкая крэпасць-герой*. Размешчаны ў частцы абарончай казармы, якая захавалася, на цэнтр. востраве крэпасці (Цытадэлі). Мае 11 экспазіцыйных залаў (пл. 1060 м²), каля 40 тыс. экспанатаў, у т. л. больш за 24 тыс. асн. фонду. Тэматычныя раздзелы экспазіцыі: гісторыя крэпасці; перадваеннае жыццё гарнізона Брэста, мерапрыемствы па ўмацаванню зах. рубяжоў Сав. Саюза; вераломны напад фаш. Германіі на СССР; дзейнасць Камуніст. партыі і Сав. ўрада па арганізацыі адпору ворагу; прыгранічныя баі часцей і злучэнняў 4-й арміі Зах. фронту, 17-га Чырванасцяжнага пагранічнага атрада, 132-га асобнага батальёна войск НКУС; гераічная абарона Брэсцкай крэпасці; *Люблін-Брэсцкая аперацыя 1944* войск 1-га Бел. фронту; Брэсцкая крэпасць-герой — усенародная школа патрыятычнага і інтэрнац. выхавання. Сярод экспанатаў матэрыялы пра Героя Сав. Саюза Дз. М. *Карбышава*, які ў 1911—14 удзельнічаў у рэканструкцыі крэпасці. Асноўнае месца ў экспазіцыі адведзена гераічнай абароне крэпасці. Найбольш каштоўныя экспанаты — прадметы, знойдзеныя пры раскопках: сцяг 393-га асобнага зенітнага арт. дывізіёна, выратаваны абаронцамі крэпасці; загад № 1 па гарнізоне ад 24.6.1941; надпіс на цаглінах «Паміраем, не саромячы», пакінуты абаронцамі; камсам. білет А. Ф. *Наганава*, абгарэлы партбілет невядомага воіна, аплаўленыя цагліны з казематаў; медальёны загінуўшых воінаў з іх развітальнымі запісамі, зброя, гадзіннік, будзільнік, які спыніўся ў першыя мінуты артабстрэлу, кавалкі металу са страхі будынкаў з мноствам асколачных і кулявых прабоін і інш., а таксама асабістыя рэчы воінаў, перададзеныя іх сем'ямі, трафейныя дакументы, у т. л. фотаздымкі, зробленыя ў час баёў за крэпасць. Экспанаты расказваюць пра абаронцаў крэпасці, якія пазней змагаліся на франтах Вял. Айч. вайны, удзельнічалі ў партыз. руху, у руху Супраціўлення ў краінах Зах. Еўропы, у т. л. пра Герояў Сав. Саюза М. І. Мяснікова, І. С. *Лазарэнку* і інш., пра вызваленне Беларусі ад ням.-фаш. захопнікаў, пра часці і злучэнні, воінаў, якія вызначыліся пры вызваленні Брэста. На адным са стэндаў ордэн Леніна і медаль «Залатая Зорка», якімі ўзнаг. Брэсцкая крэпасць. Экспануюцца работы мастакоў і скульптараў, што адлюстравалі подзвіг абаронцаў крэпасці. Прадстаўлены скульптурныя партрэты Герояў Сав. Саюза П. М. *Гаўрылава* і А. М. *Кіжаватава*, кіраўнікоў абароны Цытадэлі І. М. *Зубачова* і Я. М. *Фаміна*. Асобны стэнд прысвечаны рус. сав. пісьменніку С. Смірнову, які зрабіў вял. ўклад у раскрыццё бессмяротнага подзвігу ўдзельнікаў абароны крэпасці. У 2 кіназалах дэманструюцца хранікальна-дакументальныя фільмы пра гераічную абарону крэпасці. У паўд.-ўсх. казематах (цяпер каравульнае памяшканне камсамольска-піянерскага паста № 1) у 1984 адкрыты

музей «Хлапчукі бессмяротнага Брэста».

Музей мае перасоўныя выстаўкі на рэфрыжэратары «Брэсцкая крэпасць», сухагрузах «Андрэй Кіжаватаў» і «Нюра Кіжаватава», цеплаходах «Пётр Гаўрылаў» і «Сяргей Смірноў». З удзелам супрацоўнікаў музея складзены і выдадзены зборнікі ўспамінаў «Гераічная абарона», «Буг у агні», зборнік артыкулаў і нарысаў «Героі Брэста», альбомы «Крэпасць-герой», «Стаялі насмерць», «Калі б камяні маглі гаварыць», серыі буклетаў «Героі Брэсцкай крэпасці», «Даведнік па месцах баёў», даведнік «Музей абароны Брэсцкай крэпасці», фотаальбом «Брэсцкая крэпасць-герой» і інш. *П. Н. Панасюк.*

**БРЭ́СЦКА-ТО́ЦКА-ПАМЕРА́НСКАЯ ГА́ЎБІЧНАЯ АРТЫЛЕРЫ́ЙСКАЯ БРЫГА́ДА,** Чырванасцяжная, двойчы ордэна Багдана Хмяльніцкага, тройчы Аляксандра Неўскага. Сфарміравана ў кастр. 1943 на базе 135-га Тоцкага гаўбічнага арт. палка як 63-я гаўбічная арт. брыгада. У яе склад увайшлі 135-ы, 236-ы і 278-ы палкі. Упершыню ўдзельнічала ў баі 11.11.1943 пад Гомелем. У складзе 22-й арт. дывізіі прарыву рэзерву гал. камандавання 48-й арміі на Бел. і 1-м Бел. франтах вяла баі за вызваленне гарадоў Мазыр, Калінкавічы, Бабруйск, Баранавічы. Вызначылася ў баях пры вызваленні Брэста ў перыяд *Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944*, удастоена ганаровага наймення «Брэсцкай» (10.8.1944). Удзельнічала ў вызваленні Польшчы і ў Берлінскай аперацыі. Поўнае найменне брыгада атрымала за баявыя ўзнагароды і ганаровыя найменні палкоў, якія ўваходзілі ў яе склад. За час вайны 3381 воін брыгады ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі СССР. Брыгадай камандавалі: палк. Ф. Ф. Званарэнка (кастр.— снеж. 1943), палк. А. І. Юргялевіч (снеж. 1943 — люты 1944), палк. К. А. Папа (май — ліст. 1944), палк. І. М. Вахрамееў (ліст. 1944— сак. 1945), палк. Я. А. Ахатрын (сак.— май 1945). *М. І. Камінскі.*

**БРЭ́СЦКАЯ АБЛАСНА́Я АНТЫФАШЫ́СЦКАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ.** Дзейнічала з мая 1942 да ліп. 1944 на тэр. паўн. і цэнтр. раёнаў Брэсцкай вобл. і суседніх раёнаў Беластоцкай і Баранавіцкай абласцей на чале з *Брэсцкім міжраённым «Камітэтам барацьбы з нямецкімі акупантамі»*, з ліп. 1943— *Брэсцкім абласным антыфашысцкім камітэтам* пад кіраўніцтвам *Брэсцкага падпольнага абкома КП(б)Б.*

Для арганізацыі барацьбы працоўных супраць ням. фаш. захопнікаў у жн. 1941 ЦК КП(б)Б накіраваў на Брэстчыну камуністаў, б. дзеячаў КПЗБ І. П. *Урбановіча* і дэп. ВС БССР І. І. Жышку. У стварэнні і аб'яднанні ячэек у падп. раённыя антыфаш. арг-цыі ў вобласці ўдзельнічалі Я. М. Афанасьеў, А. М. Дурэйка, М. Е. *Крыштафовіч*, І. П. Лапін, Н. В. Макарэвіч, М. Ф. Трында, В. В. Янушка і інш. Яны стварылі Камянецкі, Пружанскі, Ружанскі і Шарашоўскі раённыя антыфаш. к-ты. 12.5.1942 арганізаваны міжраённы «Камітэт барацьбы з нямецкімі акупантамі», які ствараў і накіроўваў работу падраённых і раённых антыфаш. арганізацый, вял. ўвагу аддаваў разгортванню партыз. руху, стварэнню ў партыз. атрадах парт. і камсамольскіх арг-цый. Да восені 1942 антыфаш. арг-цыі і партыз. атрады дзейнічалі ў Бярозаўскім, Брэсцкім, Камянецкім, Косаўскім, Поразаўскім, Пружанскім, Ружанскім, Шарашоўскім, а пазней і ў некаторых інш. раёнах Брэсцкай, Баранавіцкай і Беластоцкай абл. Да лета 1943 сем партыз. атрадаў, якія дзейнічалі пад кіраўніцтвам «Камітэта барацьбы», налічвалі больш за 1400 чал., падп. антыфаш. арг-цыі — 540 чал. Са жн. 1942 да ліп. 1944 дзейнічала разгалінаваная *Брэсцкая гарадская антыфашысцкая арганізацыя.* Падпольшчыкі праводзілі паліт. работу сярод

БРЭСЦКАЯ КРЭПАСЦЬ—ГЕРОЙ, МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС



насельніцтва, выкрывалі хлуслівую фаш. прапаганду, заклікалі да барацьбы з ням.-фаш. захопнікамі. З чэрв. 1942 дзейнічала *друкарня Брэсцкага абласнога антыфашысцкага камітэта.* Раённыя антыфаш. камітэты працавалі пад кіраўніцтвам падп. райкомаў партыі і ў цесным кантакце з імі. У ліп. 1943 на базе міжраённага «Камітэта барацьбы...» створаны Брэсцкі абл. антыфаш. к-т. Дзейнасць падп. парт. і камсам. органаў, а таксама рэарганізацыя кіраўніцтва абл. антыфаш. арг-цыяй актывізавалі работу яе нізавых звёнаў. З вер. 1943 да ліп. 1944 колькасць членаў арг-цыі вырасла больш як у 3,5 раза. З снеж. 1943 абл. антыфаш. к-т выдаваў газ. *«За Радзіму».* Усяго абл. антыфаш. арг-цыяй выдадзена 168 тыс. экз. газет, лістовак, адозваў, зводак Саўінфармбюро і інш. матэрыялаў на бел., рус., польскай і ням. мовах. Вял. ўвага аддавалася папаўненню людзьмі партыз. радоў. Так, Ружанская раённая антыфаш. арг-цыя за 1943 накіравала да партызан 250 чал., з іх 150 са зброяй, Жабінкаўская за студз.— сак. 1944—100 чал. У Брэсцкім, Камянецкім, Кобрынскім, Пружанскім, Шарашоўскім і інш. р-нах барацьба насельніцтва супраць акупантаў набыла ўсеагульны характар.

Падпольшчыкі забяспечвалі партызан прадуктамі, медыкаментамі, цёплай вопраткай, абуткам, зброяй, боепрыпасамі. Да канца 1942 толькі Косаўская і Поразаўская антыфаш. арг-цыі перадалі партызанам (па няпоўных даных) 10 кулямётаў, 18 аўтаматаў, больш за 200 вінтовак, каля 70 пісталетаў, 29 тыс. патронаў, шмат гранат і ўзрыўчаткі. У 1943 члены арг-цыі пераправілі партызанам больш за 400 вінтовак, звыш 60 кулямётаў і аўтаматаў, каля 90 гранат, 4,3 тыс. патронаў, вял. колькасць гранат і ўзрыўчаткі. Падпальвалі ў маёнтках акупантаў склады, знішчалі с.-г. машыны, забіралі жывёлу, зрывалі выкананне паставак, удзельнічалі ў баявых аперацыях партызан. У жн. 1942 разам з партызанамі яны разграмілі гарнізон ворага ў Косаве, пазней — гарнізоны ў вёсках Була, Войтаў Мост, Руднікі, Шчытна. Сумесная баявая дзейнасць партызан і антыфашыстаў умацнілася пасля перадыслакацыі ў Брэсцкую вобл. партыз. брыгад «За Радзіму» імя К. А. Флегантава, 8-й пад камандаваннем С. Г. *Жуніна,* 99-й імя Дз. Ц. Гуляева, 150-й імя Ф. М. Языковіча. У 2-й пал. 1943 члены Жабінкаўскай і Пружанскай арг-цый дапамаглі партызанам пусціць пад адхон 44 варожыя эшалоны. Напярэдадні 26-й гадавіны Кастрычніка падпольшчыкі разбурылі 50 м дарогі Ружаны — Косава, у лют. 1944 вывелі са строю дарогу на в. Бялавічы, у маі 1944 разам з партызанамі атрада імя Дзімітрава — вял. участак дарогі Косава — Пружаны. Перад вызваленнем Чырв. Арміяй тэр. Брэсцкай вобл. ад ням.-фаш. захопнікаў арг-цыя аб'ядноўвала 422 ячэйкі, каля 2 тыс. падпольшчыкаў.

У барацьбе з ворагам загінулі сакратар Брэсцкага абл. антыфаш. к-та Урбановіч, член к-та Трында, сакратары раённых к-таў Л. Ждановіч, В. І. Паляшчук, Н. К. Сцепанюк, А. І. Астапчук, Ф. Я. Усік і інш.

*У. Я. Навуменка.*

**БРЭ́СЦКАЯ ГАРАДСКА́Я АНТЫФАШЫ́СЦКАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ,** Брэсцкая падпольная антыфашысцкая арганізацыя савецкіх патрыётаў. Дзейнічала з жн. 1942 да 28.7.1944 у Брэсце. Створана камуністамі, былымі сав. работнікамі, членамі КПЗБ. З лета 1943 работу арг-цыі ўзначальвалі *Брэсцкі падпольны абком КП(б)Б* і штаб *Брэсцкага партызанскага злучэння,* з мая 1944 і *Брэсцкі падпольны гарком КП(б)Б.* Арг-цыя складалася з падп. груп, якія аб'ядноўвалі больш за 100 патрыётаў. Кіраўнік кандыдат у чл. КПСС А. І. Бароўскі (падп. мянушка Мельнікаў; да вайны працаваў у Брэсцкім аблвыканкоме).

Групы ўзначальвалі А. А. Антанюк, В. М. Верабей, А. Г. Галаўчынер, Д. Р. Гарабец, У. К. Катовіч, Я. А. Каханоўскі, Дз. Г. Красоўскі, М. М. Лісач, В. К. Назарук, І. К. Назарук, М. К. Сцепанюк, П. Ф. Федарук і інш. Падпольшчыкі распаўсюджвалі сярод насельніцтва сав. газеты, лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, рэгулярна інфармавалі падп. парт. органы, штаб абл. партыз. злучэння, партыз. спецгрупу «Іскра» пра перамяшчэнне войск і тэхнікі праціўніка, распалажэнне аэрадромаў, складоў з боепрыпасамі і гаручым, абарончых збудаванняў, пра колькасць і ўзбраенне ням. гарнізонаў, выяўлялі варожую агентуру, дапамагалі партызанам зброяй і медыкаментамі, выводзілі са строю тэлефонна-тэлеграфную сувязь праціўніка. Члены арганізацыі разам з партызанамі падарвалі і спалілі 30 аўтамашын з ваен. і інш. грузамі ворага, знішчылі некалькі фашыстаў. 18.5.1944 падпольшчыца М. Ф. Шаўчук учыніла выбух у афіцэрскай сталовай, у выніку якога забіты і паранены дзесяткі гітлераўцаў. Летам 1944 члены арг-цыі аказалі вял. дапамогу разведкай наступаючым часцям Чырв. Арміі пры вызваленні Брэста, Кобрына і інш. населеных пунктаў вобласці.

У барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў загінулі М. В. Баршчэўскі, В. Р. Дзямчук, Дз. Г. Красоўскі, Ф. І. Лысюк, А. А. Макарэвіч, Р. Пракапчук, Ф. М. Руда, П. К. Сычук, Ф. Ф. Федарук.

*Л. В. Аржаева.*

**БРЭ́СЦКАЯ КРЭ́ПАСЦЬ-ГЕРО́Й,** мемарыяльны комплекс, створаны ў 1969—71 на тэр. Брэсцкай крэпасці (помнік абарончай архітэктуры 19 ст.) на ўвекавечанне подзвігу ўдзельнікаў *Брэсцкай крэпасці абароны 1941.*

Адкрыты 25.9.1971. Скульптурна-архіт. ансамбль уключае ўцалелыя збудаванні, закансерваваныя руіны, крапасныя валы і творы сучаснага манумент. мастацтва. Аўтарскі калектыў: нар. маст. СССР скульпт. А. Кібальнікаў (гал. маст. кіраўнік), нар. арх. СССР У. Король, нар. маст. БССР скульпт. А. Бембель, засл. арх. БССР В. Волчак і Г. Сысоеў, скульпт. У. Бабыль, арх. В. Занковіч, Ю. Казакоў, А. Стаховіч. Комплекс размешчаны ва ўсх. частцы Цытадэлі. Галоўны ўваход уяўляе сабой праём у выглядзе пяціканцовай зоркі ў маналітным жалезабетонным масіве, які апіраецца на вал і сцены казематаў. На вонкавым баку падмурка ўстаноўлена дошка з тэкстам Указа Прэзідыума ВС СССР ад 8.5.1965 аб прысваенні Брэсцкай крэпасці ганаровага звання



Мемарыяльны комплекс **Брэсцкая крэпасць-герой.** Галоўны ўваход.

«Крэпасць-герой». Ад гал. ўвахода ўрачыстая алея вядзе цераз мост да пл. Цырыманіялаў. Злева ад моста скульпт. кампазіцыя «Смага» — фігура сав. воіна, які, апіраючыся на аўтамат, цягнецца з каскай да вады. У планіровачным і вобразным вырашэнні мемарыяла важная роля належыць пл. Цырыманіялаў, дзе адбываюцца масавыя ўрачыстасці. Да яе прымыкае будынак *Брэсцкай крэпасці-героя музея* і руіны Белага палаца. Кампазіцыйным цэнтрам ансамбля з'яўляюцца гал. манумент «Мужнасць» — пагрудная скульптура воіна (выш. 33,5 м) і штык-абеліск (выш. 100 м). На адваротным баку гал. манумента рэльефныя кампазіцыі, якія адлюстроўваюць асобныя эпізоды гераічнай абароны крэпасці: «Атака», «Партыйны сход», «Апошняя граната», «Подзвіг артылерыстаў», «Кулямётчыкі». З манументам арганічна звязаны трыбуна і трох'ярусны некропаль, дзе пахаваны астанкі 850 чал., на ўстаноўленых тут мемар. плітах — імёны 224 байцоў. Побач з руінамі б. Інжынернага ўпраўлення гарыць Вечны агонь Славы. Перад ім — адлітыя з бронзы словы: «Стаялі насмерць, слава героям!». Недалёка ад Вечнага агню знаходзіцца Мемарыяльная пляцоўка гарадоў-герояў



Мемарыяльны комплекс **Брэсцкая крэпасць-герой.** Від на плошчу Цырыманіялаў.



Мемарыяльны комплекс **Брэсцкая крэпасць-герой.** Галоўны манумент «Мужнасць».

Сав. Саюза (адкрыта 9.5.1985), на якой пад гранітнымі плітамі ўстаноўлены капсулы з зямлёй гарадоў-герояў. На сценах казарм, руінах, цагляных і мураваных глыбах, на спец. падстаўках мемар. дошкі ў выглядзе адрыўных лісткоў календара 1941, якія з'яўляюцца своеасаблівай хронікай гераічных падзей. Пешаходныя дарожкі і плошча перад гал. уваходам пакрыты чырвоным пластабетонам. Мастацка-дэкаратыўнае чырвона-бела-зеленаватае падсвечванне вечарам і гукавое афармленне (гучанне песні А. Аляксандрава «Священная война», урадавага паведамлення пра вераломнае нападзенне на СССР войск фаш. Германіі, мелодыі Р. Шумана «Летуценні») надаюць асаблівую вастрыню ўспрымання комплексу. *Л. Г. Лапцэвіч.*

**БРЭ́СЦКІ АБЛАСНЫ́ АНТЫФАШЫ́СЦКІ КАМІТЭ́Т,** кіруючы орган *Брэсцкай абласной антыфашысцкай арганізацыі.* Створаны па ўказанню ЦК КП(б)Б у ліп. 1943 на базе *Брэсцкага міжраённага «Камітэта барацьбы з нямецкімі акупантамі».* Працаваў пад кіраўніцтвам *Брэсцкага падпольнага абкома КП(б)Б.* Накіроўваў дзейнасць 12 раённых антыфаш. арг-цый, у т. л. Косаўскай, Поразаўскай, Пружанскай, Ружанскай і Шарашоўскай (гл. адпаведныя артыкулы). Праводзіў арганізатарскую і паліт.-масавую работу па ўзмацненню барацьбы супраць ням.-фаш. захопнікаў. Састаў к-та: І. П. *Урбановіч* (сакратар), М. Е. *Крыштафовіч* (нам. сакратара), М. А. Засім, М. Ф. Трында (інструктары), А. М. Дурзйка, А. М. Мініч. Адказным за работу к-та быў чл. падп. абкома КП(б)Б С. П. Пацяруха. Камітэт знаходзіўся ў размяшчэнні *партызанскай брыгады імя П. К. Панамарэнкі* Брэсцкай вобл., меў падп. друкарню (гл. *Друкарня Брэсцкага абласнога антыфашысцкага камітэта).* З снеж. 1943 выдаваў газ. *«За Родину».*

У гонар Б. а. а. к., партыз. брыгады імя Панамарэнкі і Пружанскага падп. РК КП(б)Б у в. Смаляніца Пружанскага р-на ў 1975 пастаўлены абеліск. *А. І. Марозава.*

**БРЭ́СЦКІ АБЛАСНЫ́ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты 22.6.1957. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, мае больш за 700 экспанатаў асн. фонду (усяго больш за 6 тыс.), пл. 136 м². Прадстаўлены карта-схема абарончых баёў 4-й арміі Зах. фронту, дакументы, зброя, асабістыя рэчы, фатаграфіі абаронцаў Брэсцкай крэпасці, у т. л. П. М. *Гаўрылава,* І. М. *Зубачова,* А. Ф. *Наганава,* Я. М. *Фаміна,* У. В. *Шаблоўскага,* пагранічніка А. М. *Кіжаватава.* Матэрыялы аб узнікненні і разгортванні падполля і партыз. руху ў вобласці: карта-схема дыслакацыі першых партыз. атрадаў у 1941—42, схема першага бою Пінскага партыз. атрада 4.7.1941 каля в. Галева Пінскага р-на, партыз. зброя, фатаграфіі і асабістыя рэчы кіраўнікоў партыз. руху на Брэстчыне А. Я. *Кляшчова,* В. З. *Каржа,* С. І. *Сікорскага,* І. П. *Урбановіча,* В. Я. *Чарнышова,* палякаў-партызан, што змагаліся з акупантамі ў Баранавіцкім партыз. злучэнні, друкарскі станок і наборная каса падп. друкарні абл. газ. *«Заря»,* нумары падп. раённых газет, баявыя лісткі, мед. інструменты партыз. урачоў і інш. Карта-схема месцаў масавага знішчэння сав. грамадзян і канцлагераў расказвае аб злачынствах ням.-фаш. захопнікаў у краі. Матэрыялы аб вызваленні горада і вобласці ад акупантаў (карты-схемы вызвалення Баранавіч, Брэста, Лунінца, Пінска, дакументы, зброя, узнагароды, асабістыя рэчы, фатаграфіі военачальнікаў і воінаў-вызваліцеляў, у т. л. Герояў Сав. Саюза Г. І. *Братчыкава,* А. М. Карасёва, С. М. *Крывашэіна,* Н. Д. Свінарчука, а таксама Герояў Сав. Саюза — ураджэнцаў Брэстчыны А. С. *Благавешчанскага,* І. П. *Мазурука,* А. В. *Петрушэўскага,* Г. М. *Халасцякова* і інш.). У экспазіцыі — дыярамы «Рэйкавая вайна» (аўтар І. Фяцісаў), «Абарона Брэсцкай крэпасці» (маст. П. Дурчын, скульпт. Ф. Зільберт). Філіял — *Музей партызанскай славы.* *П. С. Шыпін.*

**БРЭ́СЦКІ МІЖРАЁННЫ «КАМІТЭ́Т БАРАЦЬБЫ́ З НЯМЕ́ЦКІМІ АКУПА́НТАМІ»,** 1) назва ў маі 1942 — чэрв. 1943 *Брэсцкай абласной антыфашысцкай арганізацыі.* 2) Кіруючы орган Брэсцкай абл. антыфаш. арганізацыі да канца ліп. 1943. Створаны ў маі 1942 на нелегальнай нарадзе кіраўнікоў антыфаш. арг-цый і груп паўн. і цэнтр. раёнаў Брэсцкай вобл. Састаў:

І. П. *Урбановіч* — сакратар, М. Е. *Крыштафовіч* — заг. аддзела прапаганды і агітацыі, Я. М. Афанасьеў — заг. асобага аддзела, А. А. Журба — дыверсійная работа і інспектаванне партыз. атрадаў, І. І. Жышка — інструктар. Ажыццяўляў кіраўніцтва антыфаш. арг-цыямі і партыз. атрадамі Бярозаўскага, Брэсцкага, Камянецкага, Косаўскага, Пружанскага, Ружанскага, Шарашоўскага, пазней і шэрагу інш. р-наў Брэсцкай, Баранавіцкай і Беластоцкай абл. Змагаўся за далейшае разгортванне і актывізацыю ўзброенай барацьбы супраць ням.-фаш. захопнікаў.

Праводзіў палітыка-масавую работу, з чэрв. 1942 меў падп. друкарню (гл. *Друкарня Брэсцкага абласнога антыфашысцкага камітэта),* аказваў дапамогу партыз. атрадам зброяй, медыкаментамі, прадуктамі, вопраткай. Аб'яднаў пад сваім кіраўніцтвам атрады імя Шчорса, Чапаева, Варашылава, Дзімітрава, Сталіна, Кірава, Чкалава. Члены к-та былі замацаваны за атрадамі. У выніку баявых дзеянняў партызан летам 1942 створаны 3 партыз. зоны. Скрыты партыз. рэзерв на 1.1.1943 налічваў 9 тыс. чал. З вер. 1942 меў сувязь з *Цэнтральным Камітэтам КП(б)Б.* Бюро ЦК КП(б)Б 24.6.1943 абмеркавала справаздачу аб рабоце к-та, дало высокую ацэнку яго арганізатарскай, баявой і палітыка-масавай дзейнасці, указала на неабходнасць расшырэння і ўмацавання антыфаш. падполля. У ліп. 1943 паводле рашэння ЦК КП(б)Б рэарганізаваны ў *Брэсцкі абласны антыфашысцкі камітэт.* *У. Я. Навуменка.*

**БРЭСЦКІ ПАДПОЛЬНЫ АБКОМ КП(б)Б.** Створаны *Цэнтральным Камітэтам КП(б)Б* і працаваў пад яго кіраўніцтвам з крас. 1943 да ліп. 1944. Дзейнічаў на тэр. Брэсцкай вобл. Стварыў і ўзначальваў Брэсцка-Жабінкаўскі і Маларыцка-Дамачоўскі падп. міжрайкомы КП(б)Б (гл. адпаведныя артыкулы), *Брэсцкі падпольны гарком КП(б)Б* і 10 райкомаў [гл. *Раённыя падпольныя камітэты КП(б)Б*], якія аб'ядноўвалі 58 пярвічных парт. арг-цый, 1258 камуністаў у партыз. фарміраваннях. Накіроўваў дзейнасць *Брэсцкага падпольнага абкома ЛКСМБ, Брэсцкага партызанскага злучэння, Брэсцкага партыйнага падполля, Брэсцкай абласной антыфашысцкай арганізацыі* і яе к-та і інш. Сакратары абкома: С. І. *Сікорскі,* І. І. *Баброў* (да 1.11.1943, загінуў); члены: В. Ф. Калібераў, С. П. Пацяруха (абодва з 24.6.1943), А. І. Федасюк (24.6.1943—30.3.1944). Друкаваны орган — газ. *«Заря»*, выдаваў бюлетэнь «Вести с Советской Родины», зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі. 2 райкомы выдавалі газеты (гл. *Друк падпольны).* Галоўная база — у Бярозаўскім р-не каля воз. Спораўскае. У маі 1943 для кіраўніцтва падп. работай і каардынацыі партыз. руху абком падзяліў тэр. вобласці на 3 зоны, за кожнай з якіх замацаваў адказнага. У Пружанскай зоне (Косаўскі, Поразаўскі, Пружанскі, Ружанскі, Шарашоўскі р-ны) кіраўніцтва ажыццяўляў Пацяруха, у Брэсцкай (Брэсцкі, Дамачоўскі, Жабінкаўскі, Маларыцкі р-ны і г. Брэст) — З. Ф. Паплаўскі, у Кобрынскай (Антопальскі, Дзівінскі, Кобрынскі р-ны) — Федасюк. У задачу адказных па зонах уваходзіла: стварэнне нелегальных парт. арг-цый у гарадах і вёсках, разгортванне сярод насельніцтва паліт. работы, далучэнне шырокіх мас да партыз. руху.

Да стварэння падп. абкома ЦК КП(б)Б 4.11.1942 зацвердзіў сакратара Брэсцкага абкома КП(б)Б Сікорскага ўпаўнаважаным ЦК КП(б)Б па Брэсцкай вобл., яго памочнікамі — А. М. Draздова, Пацяруху, Ф. Дз. *Рому*, Федасюк. У сак. 1943 яны, а таксама сакратар Брэсцкага абкома КП(б)Б Баброў, упаўнаважаны Брэсцкага абкома КП(б)Б Паплаўскі, рэдактар абл. газ. «Заря» Калібераў прыляцелі ў тыл ворага ў размяшчэнне Мінскага падп. абкома КП(б)Б. З прыбыццём арганізатарскай парт. групы ў Брэсцкую вобл. быў створаны Б. п. а. КП(б)Б.

У гонар падп. абкома КП(б)Б у в. Спорава Бярозаўскага р-на ў 1960 пастаўлены абеліск; на месцы базіравання Брэсцкіх падп. абкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ і штаба Брэсцкага партыз. злучэння ў в. Корачын Івацэвіцкага р-на створаны мемар. комплекс (гл. *Хаваншчына), Музей партызанскай славы.* *У. Я. Навуменка.*

**БРЭСЦКІ ПАДПОЛЬНЫ АБКОМ ЛКСМБ.** Створаны *Цэнтральным Камітэтам ЛКСМБ.* Дзейнічаў з крас. 1943 да 15.7.1944 на тэр. Брэсцкай вобл. пад кіраўніцтвам ЦК ЛКСМБ і *Брэсцкага падпольнага абкома КП(б)Б.* Узначальваў дзейнасць *Брэсцкага падпольнага гаркома ЛКСМБ,* 18 райко-



Дыярама «Абарона Брэсцкай крэпасці» ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі.



Мемарыяльны комплекс **Брэсцкая крэпасць-герой.** Холмскія вароты.

маў ЛКСМБ (гл. *Раённыя падпольныя камітэты ЛКСМБ),* 283 тэрытарыяльныя, 70 пярвічных камсам. арг-цый у партыз. фарміраваннях, усяго больш за 3,5 тыс. камсамольцаў. Сакратары абкома: Ф. Дз. *Рома* (з крас. 1943), М. М. *Лыжын* (1-ы сакратар з 2.2.1944); члены П. Ф. Круглоў, М. А. Лявонценка, К. М. Міранюк (усе з крас. 1943), М. К. Клімец (з мая 1943), Р. І. Архіпаў (са жн. 1943), Ф. М. Аліcіевіч, Б. Ц. Шумілін (заг. аддзела прапаганды і агітацыі, абодва з 2.2.1944); інструктары па падп. рабоце: Б. М. Кот, П. А. Сямёнаў (абодва з 1.12.1943), Я. С. Волас (з 2.2.1944).

Для кіраўніцтва парт. і камсам. работай і партыз. рухам 4.11.1942 ЦК КП(б)Б зацвердзіў сакратара Брэсцкага абкома КП(б)Б С. І. *Сікорскага* ўпаўнаважаным ЦК КП(б)Б па Брэсцкай вобл., яго памочнікамі А. М. Драздова, С. П. Пацяруху, Рому, А. І. Федасюк. На тэр. вобласці ў 1943 працавалі сакратар ЦК ЛКСМБ К. Т. *Мазураў,* інструктары ЦК ЛКСМБ па падп. рабоце М. А. Карповіч і М. І. Сіманаў.

На месцы базіравання абкомаў КП(б)Б, ЛКСМБ і штаба *Брэсцкага партызанскага злучэння* ў в. Корачын Івацэвіцкага р-на ўзведзены мемар. комплекс (гл. *Хаванічына),* створаны *Музей партызанскай славы.*

*Р. М. Шавяла.*

**БРЭ́СЦКІ ПАДПО́ЛЬНЫ ГАРКО́М КП(б)Б.** Дзейнічаў з мая да 20.7.1944 у Брэсце і паўд. ч. Брэсцкай вобл. пад кіраўніцтвам *Брэсцкага падпольнага абкома КП(б)Б.* Падпольны гарком узначальваў *Брэсцкае партыйнае падполле,* меў сувязь з *Брэсцкай гарадской антыфашысцкай арганізацыяй,* праводзіў арганізацыйную і паліт. работу ў партыз. атрадах імя М. М. Чарнака, Фрунзе, каардынаваў дзейнасць усіх падп. парт. органаў і партыз. атрадаў у паўд. раёнах Брэсцкай вобл. Пад яго кіраўніцтвам створаны і дзейнічалі *Маларыцка-Дамачоўскі падпольны міжрайком КП(б)Б, партызанская брыгада імя У. І. Леніна.* Сакратары гаркома Р. І. Мажаеў, В. А. Цэрахаў; члены Н. А. Камолава, А. І. Літвінава.

У жн. 1941 сакратар парткома Брэсцкага чыг. вузла П. Г. *Жулікаў* і інструктар гаркома КП(б)Б Р. С. Радкевіч стварылі парт. цэнтр, названы гар. к-там партыі. Аднак яго дзейнасць не атрымала належнага размаху, характарам і аб'ёмам работы ён адпавядаў к-ту (бюро) пярвічнай арг-цыі. З крас. 1943 да канца сак. 1944 падп. барацьбу з акупантамі ў горадзе ўзначальваў упаўнаважаны Брэсцкага падп. абкома КП(б)Б З. Ф. Паплаўскі. *Б. І. Камейша.*

**БРЭ́СЦКІ ПАДПО́ЛЬНЫ ГАРКО́М ЛКСМБ.** Дзейнічаў з 9.5 да 21.7.1944 пад кіраўніцтвам *Брэсцкага падпольнага абкома ЛКСМБ* і *Брэсцкага падпольнага гаркома КП(б)Б.* Кіраваў камсамольскімі і маладзёжнымі падп. арг-цыямі і групамі г. Брэст. Сакратары гаркома: М. Я. Каняхін, Дз. В. Шамін (сакратар па прапагандзе); члены: М. В. Гуцік, Ф. Я. Тронкіна, Б. Дз. Фіськоў. Асноўная база знаходзілася ў партыз. атрадзе імя М. М. Чарнака, які дзейнічаў у Брэсцкім і Жабінкаўскім р-нах.

Да стварэння падп. гаркома барацьбу *Брэсцкага камсамольска-маладзёжнага падполля* супраць акупантаў з 1941 узначальваў парт. цэнтр *Брэсцкага партыйнага падполля,* у ліст. 1943— крас. 1944— упаўнаважаны ЦК ЛКСМБ і Брэсцкага падп. абкома ЛКСМБ У. А. Несцярэнка.

*Р. М. Шавяла.*

**БРЭ́СЦКІ СТРАЛКО́ВЫ КО́РПУС,** г в а р д з е й с к і Ч ы р в а н а с ц я ж н ы о р д э н а К у т у з а в а.

Сфарміраваны ў чэрв. 1942 у Калужскай вобл. на базе 12-й гвардз. стралк. дывізіі як 9-ы гвардз. стралк. корпус. З ліп. 1942 і да канца вайны быў у складзе *шэсцьдзесят першай арміі.*

У канцы 1943— пач. 1944 вёў баі па захопу і пашырэнню плацдарма на Дняпры. У складзе Бел. фронту ўдзельнічаў у *Калінкавіцка-Мазырскай аперацыі 1944.* 14.1.1944 часці корпуса сумесна з інш. злучэннямі вызвалілі г. Калінкавічы. У складзе войск 1-га Бел. фронту ўдзельнічаў у *Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944* і вызначыўся ў баях за Брэст, за што быў удастоены ганаровага наймення «Брэсцкага» (10.8.1944).

У складзе войск 3-га і 1-га Прыбалт. франтоў удзельнічаў у вызваленні Рыгі і блакіроўцы варожай групоўкі на Курляндскім паўвостраве. У складзе 1-га Бел. фронту часці корпуса ўдзельнічалі ў Варшаўска-Пазнанскай, Усх.-Памеранскай і Берлінскай аперацыях. За час вайны 15 537 воінаў корпуса ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі СССР, 194 з іх прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Корпусам камандавалі: ген.-маёр М. І. Кірухін (чэрв.— кастр. 1942), палк. П. Я. Пачэма (кастр.— ліст. 1942), ген.-маёр А. А. Барэйка (ліст. 1942 — люты 1944), ген.-маёр М. А. Папоў (люты — ліп. 1944), ген.-лейт. Р. А. Халюзін (ліп. 1944 — крас. 1945), ген.-лейт. А. Дз. Шамянкоў (крас.— май 1945). *М. І. Камінскі.*

**БРЭ́СЦКІЯ ВАЙСКО́ВЫЯ ЗЛУЧЭ́ННІ І ЧА́СЦІ.** За вызваленне г. Брэст (28.7.1944) і ліквідацыю брэсцкай групоўкі ням.-фаш. войск у перыяд *Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944* ганаровае найменне «Брэсцкіх» паводле загадаў ВГК ад 10 і 31.8.1944 атрымалі 47 злучэнняў і часцей 28-й, 61-й і 70-й армій і 16-й паветр. арміі 1-га Бел. фронту.

Часці і злучэнні, якім нададзена найменне «Брэсцкіх»: 9-ы гвардз. стралк. корпус (ген.-маёр М. А. Папоў, з 29.7.1944 ген.-лейт. Р. А. Халюзін), 20-ы (ген.-маёр М. А. Швараў), 96-ы (ген.-лейт. Я. Д. Чанышаў) і 114-ы (ген.-лейт. Дз. І. Рабышаў) стралковыя карпусы, 1-я (палк. Л. А. Бакуеў), 160-я (ген.-маёр М. С. Цімафееў), 186-я (ген.-маёр Р. В. Равуценкаў) і 413-я (палк. І. В. Мулаў) стралк. дывізіі, 12-я зенітная арт. дывізія (палк. А. М. Пятроў), 3-я асобная гвардз. знішчальная процітанк. (палк. Р. К. Колакалаў), 3-я карпусная (палк. А. А. Сяргееў), 13-я лёгкая (палк. Я. Я. Пухаў), 63-я гаўбічная (палк. К. А. Папа) і 148-я армейская пушачная (палк. С. А. Бармоцін) арт. брыгады, 1-я мінамётная брыгада (палк. В. В. Кірылаў), 1-я асобная гвардз. матарызаваная інж. брыгада (ген.-маёр інж. войск М. Ф. Іофе), 36-я (палк. В. С. Антонаў) і 48-я (палк. П. М. Дабычын) інж. сапёрныя брыгады, 32-і (падпалк. М. Ц. Волкаў) і 110-ы (падпалк. Ф. В. Ільяшэнка) гвардз. стралк. палкі, 67-ы (падпалк. С. А. Піразеў), 371-ы (падпалк. К. А. Іткулаў), 1293-і (маёр С. І. Рапецкі) і 1321-ы (падпалк. І. Я. Алейнік) стралк. палкі, 127-ы кав. полк (падпалк. А. К. Янавіцкі), 75-ы самаходны арт. полк (падпалк. П. Я. Карпенка), 304-ы гвардз. зенітны арт. полк (падпалк. М. В. Васільеў), 347-ы гвардз. цяжкі самаходны арт. полк (падпалк. І. Ф. Сіманаў), 686-ы арт. полк (падпалк. Ф. В. Хмяльніцкі), 1071-ы армейскі знішчальны процітанк. арт. полк (маёр С. А. Іваноў), 1382-і зенітны арт. полк (палк. І. Я. Шведаў), 1815-ы самаходны арт. полк (маёр А. П. Турчын), 1822-і самаходны арт. полк (маёр Л. С. *Данілюк),* 294-ы мінамётны полк (падпалк. В. П. Пузанаў), 30-ы асобны гвардз. цяжкі танк. полк (падпалк. К. І. Парфёнаў), 65-ы асобны танк. полк (падпалк. М. Д. Амельчанка), 26-ы гвардз. авіяцыйны полк далёкага дзеяння (падпалк. П. І. Бурлуцкі), 27-ы гвардз. авіяцыйны полк далёкага дзеяння (падпалк. М. П. Дзедаў-Дзядушынскі), 157-ы (маёр В. Ф. Волкаў) і 484-ы (падпалк. П. Дз. Ягораў) знішчальныя авіяцыйныя палкі, 946-ы штурмавы авіяцыйны полк (маёр В. С. Слюнкін), 38-ы асобны полк сувязі (палк. А. В. Калечыц), 41-ы асобны гвардз. мінамётны дывізіён (маёр П. М. Пракапенка), 10-ы асобны штурмавы інж. сапёрны батальён (капітан І. Ф. Судаялеўскі), 50-ы асобны гвардз. батальён сувязі (маёр І. С. Мягкоў), 53-і асобны гвардз. сапёрны батальён (маёр І. В. Кандалін), 467-ы асобны лінейны батальён сувязі (маёр П. П. Лук'янчук).

Войскам, якія ўдзельнічалі ў баях за вызваленне Брэста, загадам ВГК ад 28.7.1944 аб'яўлена падзяка, у Маскве дадзены салют 20 арт. залпамі з 224 гармат. *М. І. Камінскі.*

**БУ́БІН** Станіслаў Францавіч (снеж. 1917, в. Бубны Верхнядзвінскага р-на — 14.9.1949), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1944. У партызанах з чэрв. 1942: камандзір атрада, у ліст. 1943— ліп. 1944 *партызанскай брыгады 1-й Баранавіцкай.* Пасля вайны на сав. рабоце.

**БУ́ДА,** вёска на тэр. Чэрвеньскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на Пд ад в. Падсосна Хутарскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 100 чал. 10.11.1942 у час карнай аперацыі фашысты загубілі 83 жыхароў, вёску (25 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1984 на месцы вёскі пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**БУДА́Й** Генадзь Васілевіч (26.6.1918, г. Дзяржынск Мінскай вобл.—22.11.1988), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў *Дзяржынскага партыйна-камсамольскага падполля,* парт. падполля ў Баранавіцкай вобл., журналіст. Засл. дзеяч культуры БССР (1968). Чл. КПСС з 1946. У 1938—41 вучыўся ў Камуніст. ін-це журналістыкі, скончыў БДУ (1959).

У крас.— снеж. 1943 нам. кіраўніка *Івянецкага падпольнага міжрайпартцэнтра,* адначасова рэдактар газ. *«Народный мститель»* (чэрв. 1943 — лют. 1944). З кастр. 1943 чл. Івянецкага падп. РК КП(б)Б, у лют.— чэрв. 1944 рэд. газ. *«Чырвоная звязда»* Баранавіцкага падп. абкома КП(б)Б. Пасля вайны на журналісцкай рабоце. У 1972—86 гал. рэдактар часопіса «Коммунист Белоруссии». Чл. ЦК КПБ у 1976—86. Дэп. ВС БССР з 1975. Аўтар кн. «Свінцом і словам» (2 выд., 1981). Дзяржаўная прэмія БССР 1984.

**БУДАЙ** Георгій Васілевіч (19.8.1913, г. Дзяржынск Мінскай вобл.—21.2. 1989), адзін з удзельнікаў *Дзяржынскага партыйна-камсамольскага падполля* і кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай і Баранавіцкай абл. Чл. КПСС з 1965. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. З жн. 1941 кіраўнік падп. групы ў Дзяржынску. З вер. 1942 нам. камісара, у сак.— снеж. 1943 камісар партыз. атрада, у снеж. 1943 — ліп. 1944— *партызанскай брыгады імя П. К. Панамарэнкі.* З 1944 нам. кіраўніка, кіраўнік справамі Прэзідыума ВС БССР, у 1946—85 на адм.-гасп. рабоце.

**БУДА-КАШАЛЁВА,** горад, цэнтр Буда-Кашалёўскага р-на. За 48 км на ПнЗ ад Гомеля, чыг. станцыя на лініі Мінск — Гомель, аўтадарогамі звязана з Чачэрскам і аўтамагістраллю Мінск — Гомель. У 1938—71 гар. пасёлак, у 1939 3,4 тыс. жыхароў. 15.8.1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія забілі ў Б.-К. 485 чал., у горадзе і раёне 1238 чал. Дзейнічалі ў горадзе і раёне Буда-Кашалёўскія падп. райкомы КП(б)Б (сак.—23.11. 1943) і ЛКСМБ (1.6—25.11.1943), партыз. брыгады 1-я Буда-Кашалёўская, 8-я Рагачоўская, 10-я Журавіцкая, імя Чапаева, імя Шчорса, асобны партыз. атрад 108-ы імя Катоўскага (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«Ленінскі шлях».* Вызвалена 27.11.1943 воінамі 4-й стралк. дывізіі (палк. Дз. Дз. Вараб'ёў) і 231-га танк. палка (падпалк. Ф. М. Кавалёў) 48-й арміі Бел. фронту ў ходзе *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943.* У горадзе брацкія магілы сав. воінаў і партызан, магілы ахвяр фашызму, на якіх пастаўлены помнікі; помнікі двойчы Герою Сав. Саюза ген.-маёру авіяцыі П. Я. Галавачову, віцэ-адміралу В. П. *Дразду;* курган Славы.
*В. В. Гетаў.*

**БУЗАВА,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на ПдУ ад в. Леснікова Каханавіцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 55 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»,* фашысты загубілі 55 жыхароў, вёску (14 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1965 на месцы вёскі насыпаны курган, на вяршыні якога пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе *Хатынь.*

**БУЙКО** Пётр Міхайлавіч (31.10.1895, г. Бельск-Падляскі ПНР — 15.10. 1943), Герой Сав. Саюза (1944). Прафесар (1938). Чл. КПСС з 1921. Беларус. Скончыў Кіеўскі мед. ін-т (1922). Удзельнік грамадз. вайны. У перыяд Айч. вайны з 1941 вядучы хірург мед.-сан. батальёна. У баях пад г. Умань быў паранены, трапіў у палон, уцёк. З 1942 працаваў у бальніцы г. Фастава Кіеўскай вобл., адзін са стваральнікаў падп. парт. арг-цыі і партыз. груп у раёне. З ліп. 1943 урач партыз. атрада. 13.10.1943 у час бою схоплены фашыстамі і пасля катаванняў жывым спалены з партызанамі-заложнікамі. Пахаваны ў с. Тамашоўка Фастаўскага р-на. На магіле помнік. Імя Б. прысвоена Кіеўскаму навукова-даследчаму ін-ту педыятрыі, акушэрства і гінекалогіі, дырэктарам якога быў з 1933, яго імем названа вуліца ў Кіеве.

**БУЙНЕВІЧ** Павел Мікалаевіч (н. 15.10. 1912, в. Новыя Грамыкі Веткаўскага р-на), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1944. У Чырв. Арміі ў 1934—40 і з 1941. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. Летам 1941 у складзе зенітнага дывізіёна абараняў Гомель, потым у партыз. атрадзе, які ўвосень 1943 злучыўся з Чырв. Арміяй. З ліст. 1943 на Бел., 1-м, 2-м Бел., 1-м Укр., 1-м і 3-м Прыбалт. франтах, удзельнік вызвалення Гомеля, Пінска. Камандзір гарматы сяржант Б. вызначыўся ў час прарыву абароны ворага на правым беразе Віслы ў студз. 1945. Агнём гарматы знішчыў 8 варожых агнявых кропак, 10 станковых кулямётаў, каля 45 гітлераўцаў. Да 1967 у Сав. Арміі.

**БУЙНІЦКАЕ ПОЛЕ,** месца жорсткіх баёў сав. воінаў 172-й стралк. дывізіі (ген.-маёр М. Ц. *Раманаў*) супраць ням.-фаш. захопнікаў у час *Магілёва абароны 1941* (ускраіна в. Буйнічы, за 5 км на ПдЗ ад Магілёва). Рубеж Цішоўка — Буйнічы — Сялец, перакрываючы аўтадарогу Магілёў — Бабруйск і чыгунку Магілёў — Жлобін, абаранялі воіны 388-га стралк. палка (палк. С. Ф. *Куцепаў*), 340-га лёгкага арт. палка (палк. І. С. Мазалаў) 172-й стралк. дывізіі і батальён нар. апалчэння (камісар П. Е. Цярэнцьеў). Ням. камандаванне, плануючы праважца ў Магілёў з ПдЗ (з боку Бабруйска), сканцэнтравала на гэтым напрамку 3-ю танк. дывізію, пяхотныя часці, якія падтрымліваліся артылерыяй і авіяцыяй. Найбольш цяжкія баі разгарнуліся на Б. п. каля в. Буйнічы, дзе праходзіў пярэдні край абароны. З 10 ліп. праціўнік сістэматычна падвяргаў пазіцыі 388-га палка масіраванай бамбардзіроўцы і арт. абстрэлу. 12 ліп., апярэдзіўшы атаку праціўніка, сав. артылерыя агнём па скопішчы ням. танкаў нанесла ворагу значныя страты. Перайшоўшы ў наступленне, праціўнік накіраваў на сав. пазіцыі праз Б. п. 70 танкаў. Бой працягваўся 14 гадзін, сав. воіны знішчылі (выкарыстоўвалі таксама бутэлькі з гаручай сумессю) 39 танкаў, адбілі некалькі атак праціўніка. 13 ліп. немцы ўварваліся на пазіцыі 3-га батальёна, воіны палка

П. М. Буйко. П. М. Буйневіч.



контратакавалі праціўніка і адстаялі рубеж абароны. Баі мелі бязлітасны характар і ў наступныя дні, сваё пазіцыі сав. воіны ўтрымлівалі да 22 ліпеня.

13—14 ліп. на Б. п. знаходзіўся карэспандэнт газ. «Известия» пісьменнік К. Сіманаў. Падзеі гераічнай абароны знайшлі адлюстраванне ў яго рамане «Жывыя і мёртвыя» (правобразам гал. героя рамана Сярпіліна з'яўляецца палк. Куцепаў) і дзённіку «Розныя дні вайны». Паводле завяшчання Сіманава прах яго развеяны на Б. п. На месцы баёў пастаўлены помнік у гонар воінаў 388-га стралк. палка, на ўшанаванне памяці Сіманава — мемар. знак.
*В. С. Паваліхіна.*

**БУКШТЫНАЎ** Фёдар Іванавіч (5.1. 1904, в. Слабада Талачынскага р-на — 28.2.1973), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1928. З 1931 у ЦК ВКП(б), СНК СССР. З ліп. 1941 у нар. апалчэнні, удзельнік абароны Масквы. У партызанах з чэрв. 1942, у кастр. 1942 — сак. 1943 камісар *партызанскай брыгады «Чэкіст»,* у чэрв. 1943— май 1944 сакратар Шклоўскага падп. РК КП(б)Б. З 1944 на сав. і гасп. рабоце.

**БУКШТЫНОВІЧ** Міхаіл Фаміч (1892, в. Жомайдзь Валожынскага р-на — 28.6.1950), ген.-лейт. (1945). Чл. КПСС з 1944. Скончыў Віленскае камерц. вучылішча (1912), курсы «Выстрал» (1924), курсы ўдасканалення вышэйшага камсаставу пры Ваен. акадэміі імя Фрунзе (1927, 1931). Удзельнік грамадз. вайны. З 1942 камандзір дывізіі, корпуса, нач. штаба арміі. Удзельнік баёў на Калінінскім, 2-м Прыбалт., 1-м Бел. франтах, Вісла-Одэрскай, Берлінскай аперацый. Пасля вайны ў Генштабе Узброеных Сіл СССР.

**БУ́ЛАК** Павел Іванавіч (25.10.1902, в. Вострава Зэльвенскага р-на — 21.8. 1970), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1927. Удзельнік рэв. руху ў Зах. Беларусі, за што быў зняволены ў турмах бурж. Польшчы (1930—35, 1936—39). Напярэдадні Айч. вайны сакратар сельсавета ў Зэльвенскім р-не. Летам 1941 пачаў збіраць у Зэльвенскім р-не патрыятычныя сілы, на базе якіх быў створаны партыз. атрад, у снеж. 1942— снеж. 1943 камандзір атрада, у снеж. 1943 — ліп. 1944 — *партызанскай брыгады «Перамога»*. У 1944—64 на сав. і гасп. рабоце. Яго імем названы вуліцы ў г. п. Зэльва і в. Дзярэчыне Зэльвенскага р-на.

**БУ́ЛАТ** Барыс Адамавіч (24.7.1912, Тула — 27.3.1984), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1941. Скончыў 1-ю Сав. аб'яднаную ваен. школу імя ВЦВК (1936), Вышэйшую школу харчовай прамысловасці ў Маскве (1955). У Чырв. Арміі з 1932. У пач. вайны цяжка паранены трапіў у палон. Уцёк з лагера смерці і ў маі 1942 арганізаваў партыз. групу, на базе якой створаны атрад, з ліп. камандзір гэтага атрада. З снеж. 1942 нач. штаба, з чэрв. 1943 камандзір *партызанскай брыгады Ленінскай*, з ліст. 1943 — *партызанскай брыгады «Уперад»*. У 1944—73 на сав. і гасп. рабоце ў Мінску. Ганаровы грамадзянін г. Ліда, яго імем названы вуліцы ў Лідзе і Дзятлаве.

**БУ́ЛЫ,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 4 км на ПнЗ ад в. Сар'я. 16.2.1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»*, фашысты загубілі 127 жыхароў, вёску (15 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася.

**БУМА́ГІН** Іосіф Раманавіч (17.10.1907, Віцебск — 24.4.1945), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1932. У Чырв. Арміі з 1941. На фронце з 1945. Камандзір кулямётнага ўзвода лейт. Б. вызначыўся ў баі за г. Брэслаў (Вроцлаў). 24.4.1945 пад шквальным агнём узвод атакаваў праціўніка, але атака захлынулася. Б. знішчыў гранатамі адну агнявую кропку, другую закрыў сваім целам, што забяспечыла поспех наступлення. Яго імем названы вуліцы ў Віцебску, у г. Гарадок Віцебскай вобл., жылы раён у г. Біра-біджан.

**БУМАЖКО́Ў** Макар Піменавіч (28.2. 1915, г. Іман Прыморскага краю — 16.3.1987), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Палескай вобл. Чл. КПСС з 1940. З 1931 на гасп. і журналісцкай рабоце. З 1936 у Чырвонай Арміі: курсант школы малодшага нач. саставу, нам. палітрука, палітрук батарэі. У чэрв. 1941 на фронце. З 28.6.1941 у партызанах: камандзір групы, атрада, у сак.— чэрв. 1943 камандзір *партызанскай брыгады 225-й*. З ліп. 1943 у распараджэнні ЦК КП(б)Б. Пасля вайны на парт. і сав. рабоце.



М. Ф. Букштыновіч. Б. А. Булат. І. Р. Бумагін. Ц. П. Бумажкоў. А. К. Бурак. А. М. Бурак.

**БУМАЖКО́Ў** Ціхан Піменавіч (2.7. 1909, г. Дальнярэчанск Прыморскага краю — 23.9.1941), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху ў Палескай вобл. Яму першаму з сав. партызан прысвоена званне Героя Сав. Саюза (6.8.1941). Чл. КПСС з 1930. Скончыў Мінскі хіміка-тэхналагічны тэхнікум. З ліп. 1939 1-ы сакратар Акцябрскага РК КП(б)Б. З пач. вайны ўзначаліў барацьбу працоўных раёна супраць гітлераўскіх захопнікаў. 26.6.1941 сумесна з Ф. І. *Паўлоўскім* стварыў партыз. атрад «Чырвоны Кастрычнік», які разам з часцямі Чырв. Арміі стрымліваў наступленне гітлераўцаў на р. Пціч, разграміў у в. Воземля Акцябрскага р-на штаб ням. дывізіі (гл. *Воземлянскі бой 1941*). З жн. 1941 начальнік палітаддзела кавалерыйскай групы на Паўд.-Зах. фронце. Загінуў у баі каля с. Оржыца Палтаўскай вобл. Дэп. ВС БССР з 1939. У г. п. Акцябрскі яму пастаўлены помнік, яго імем названы калгас у Акцябрскім р-не, чыг. ст. на лініі Бабруйск — Рабкор, вуліцы ў гарадах Бабруйск, Мінск, Мазыр, Петрыкаў, у г. п. Акцябрскі, у в. Парэчча Акцябрскага р-на.

**«БУРАВЕ́СНІК»** («Sturmvogel»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партызан і мясцовага насельніцтва ў Клімавіцкім р-не 10—15.7.1943.

Праводзілася сіламі начальніка аховы тылу 4-й ням. арміі, у т. л. 774-га батальёна 96-га ахоўнага палка, паліцыі парадку, 624-га асобнага ўсходняга батальёна.

На поўдзень ад в. Студзянец, каля в. Сасноўка і Антонаўка карнікі былі спынены, а потым контратакаваны байцамі *партызанскай брыгады 13-й Касцюковіцкай*. Насельніцтва з вёсак, якім пагражалі гітлераўцы, было схавана ў глыбіні партыз. зоны. Кіраўніцтва карнай аперацыяй «Б.» у справаздачы вышэйшаму камандаванню прызнала поўны яе правал.

**БУРА́К** Аляксандр Кандратавіч (н. 12.2.1918, г. Дзяржынск Мінскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1945. Скончыў Мінскі аэраклуб (1938), Адэскую ваен. авіяцыйную школу лётчыкаў (1940), Вышэйшыя афіцэрскія лётна-тактычныя курсы (1945, 1951). З крас. 1942 на Бранскім, Калінінскім, 1-м і 4-м Укр. франтах, камандзір звяна, нам. камандзіра эскадрыллі штурмавога авіяпалка. Старшы лейтэнант Б. зрабіў 128 баявых вылетаў, знішчыў 28 варожых танкаў, 50 аўтамашын, 3 самалёты, 7 складоў з боепрыпасамі, 3 батарэі зенітнай артылерыі, 2 чыг. эшалоны. Да 1956 у Сав. Арміі, падпалкоўнік.

**БУРА́К** Андрэй Мацвеевіч (1911, в. Асвейца Верхнядзвінскага р-на — 17.10.1943), Герой Сав. Саюза (1943). На фронце з чэрв. 1941, наводчык кулямёта. Вызначыўся ў вер. 1943 пры фарсіраванні Дняпра каля Ржышчава Кіеўскай вобл. Агнём кулямёта прыкрываў пераправу падраздзяленняў, знішчыў некалькі агнявых кропак ворага. На захопленым плацдарме з яго ўдзелам адбіты 3 контратакі. Загінуў у баі. Пахаваны ў с. Балыка-Шчучынка Кагарлыцкага р-на Кіеўскай вобл. У в. Ігналіна Верхнядзвінскага р-на на ўшанаванне яго памяці пастаўлена стэла.

**БУРДЗЕ́ЙНЫ** Аляксей Сямёнавіч (18.10.1908, г. Жытомір — 21.4.1987),

Герой Сав. Саюза (1945), ген.-палк. (1961). Чл. КПСС з 1928. У Чырв. Арміі з 1931. Скончыў ваен. акадэміі бранятанк. войск (1940), Генштаба (1949). На фронце з чэрв. 1941, удзельнік абароны Кіева, Харкава, баёў пад Варонежам, Сталінградскай і Курскай бітваў. З восені 1943 на Зах., 3-м Бел. франтах. Танкавы корпус на чале з Б. 26.6.1944 на З ад Оршы перарэзаў чыгунку і шашу Масква — Мінск, вызваляў Оршу; 3.7.1944 першы ўварваўся ў Мінск. Удзельнік вызвалення Літвы, баёў ва Усх. Прусіі. У 1954—63 пам., нам. і 1-ы нам. камандуючага БВА, да 1973 на адказных ваен. пасадах. Чл. ЦК КПБ у 1960—66. Дэп. ВС БССР у 1959—67. Ганаровы грамадзянін Мінска.

**БУТКЕ́ВІЧ** Леанід Уладзіміравіч (31.12.1918, в. Хотліна Чашніцкага р-на — 12.11.1985), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1942. Скончыў Аршанскі тэхнікум чыг. транспарту (1935). У Чырв. Арміі з 1937. Удзельнік вызвалення Зах. Украіны ў 1939. З 1941 на Паўд.-Зах., Паўд., Закаўказскім, Паўн.-Каўказскім франтах. Снайпер лейт. Б. вызначыўся ў баях за Каўказ, Кубань, Крым. Знішчыў 327 гітлераўцаў, з процітанк. ружжа заглушыў 22 кулямётныя кропкі ворага, падрыхтаваў 125 снайпераў. Пасля вайны жыў і працаваў у г. Есентукі. У г. Чашнікі на будынку сярэдняй школы № 1, дзе ён вучыўся, мемар. дошка.

**БУТЫ́ЛКІН** Віктар Васілевіч (н. 27.10. 1923, Масква), Герой Сав. Саюза (1943), ген.-маёр (1975). Чл. КПСС з 1943. Доктар ваен. навук (1969), прафесар (1970). Скончыў Разанскае арт. вучылішча (1942), Арт. акадэмію імя Дзяржынскага (1952). На фронце з крас. 1942. Камандзір батарэі ст. лейтэнант Б. вызначыўся 15.10.1943 пры фарсіраванні Дняпра каля г. п. Лоеў Гомельскай вобл.: у ліку першых пераправіўся на правы бераг, выратаваў 2 параненых радыстаў і рацыю, наладзіў сувязь з батарэяй і карэкціраваў яе агонь па берагавых умацаваннях праціўніка. Батарэя знішчыла 16 агнявых кропак, падавіла агонь 2 мінамётных батарэй, на захопленым плацдарме адбіла 20 контратак ворага. Служыць у Сав. Арміі.

**БУТЭ́ЛІН** Леанід Георгіевіч (1919, в. Родня Клімавіцкага р-на — 22.6.1941), лётчык-знішчальнік, які адзін з першых у вайну тараніў варожы самалёт. Камандзір звяна 12-га знішчальнага авіяпалка лейтэнант Б. 22.6.1941 у 5 гадз 15 мін каля г. Станіслаў (з 1962 Івана-Франкоўск) збіў самалёт праціўніка і, калі скончыліся боепрыпасы, тараніў другі.



А. С. Бурдзейны. Л. У. Буткевіч. Г. К. Бухавец. П. М. Бухонка. М. А. Бухтуеў. М. С. Быкаў.

**БУХАВЕ́Ц** Георгій Кліменцьевіч (18.1.1901, Віцебск — 27.5.1967), ген.-лейт. (1944). Чл. КПСС з 1923. У Чырв. Арміі з 1920. Скончыў Віцебскія пяхотныя камандныя курсы (1922), курсы «Выстрал» (1938), Вышэйшыя акадэмічныя курсы пры Ваен. акадэміі Генштаба (1948). Удзельнік грамадз. вайны, вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. З 1941 на Паўн.-Зах., Ленінградскім, 3-м Бел., 1-м Укр. франтах, нач. штаба корпуса, камандзір дывізіі, нач. штаба арміі. У 1945—53 нач. штаба ваен. акруг.

**БУХО́НКА** Пётр Мікалаевіч (12.7.1906, г. Добруш — 5.2.1944), Герой Сав. Саюза (1944). На фронце з 1941. Сапёр Б. вызначыўся 26.9.1943 пры фарсіраванні Дняпра на Украіне: зрабіў 2 рэйсы на правы бераг, у час 2-га рэйса паранены Б. закрыў прабоіны ў лодцы, гэтым выратаваў байцоў, даставіў іх на бераг. Памёр ад ран. Пахаваны ў брацкай магіле ў с. Бузулукі Крынічанскага р-на Днепрапятроўскай вобл. Яго імем названа вуліца ў Добрушы, на добрушскім цэлюлозна-папяровым камбінаце «Герой працы», дзе працаваў Б., мемар. дошка, імя Б. занесена ў спіс рабочых ф-кі.

**БУХТУ́ЕЎ** Міхаіл Арцёмавіч (23.11.1925, пас. Кара-Хаш Тоджынскага р-на Тувінскай АССР — 25.6.1944), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. ВЛКСМ. У Айч. вайну з чэрв. 1944 на 1-м Бел. фронце. Механік-вадзіцель танка сяржант Б. вызначыўся 25.6.1944 у баі за ст. Чорныя Брады Акцябрскага р-на Гомельскай вобл. Змяў танкам 2 варожыя гарматы, каля ўзвода пяхоты. Сваёй падпаленай машынай тараніў і вывеў са строю бранепоезд праціўніка. Пахаваны ў в. Пратасы Акцябрскага р-на. На месцы подзвігу пастаўлены памятны знак, у в. Чорныя Брады — мемар. дошка экіпажу; імя Б. навечна занесена ў спіс танк. часці, дзе ён служыў.

**БШПР,** гл. *Беларускі штаб партызанскага руху.*

**БЫКА́Ў** Міхаіл Сямёнавіч (н. 16.10.1922, г. Жлобін), Герой Сав. Саюза (1946). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Адэскую ваен. авіяцыйную школу пілотаў (1940), Вышэйшыя лётна-тактычныя курсы (1952). З 1941 на Зах., Бранскім, 1-м і 4-м Укр. франтах. Камандзір эскадрыллі штурмавога авіяпалка, зрабіў 174 баявыя вылеты, знішчыў і пашкодзіў 52 варожыя танкі, 12 самалётаў на аэрадромах, каля 200 аўтамашын, 150 павозак, 40 гармат, узарваў 12 складоў з боепрыпасамі. Да 1954 у Сав. Арміі, падпалкоўнік.

**БЫ́ХАЎ,** горад, цэнтр Быхаўскага р-на, прыстань на Дняпры. За 44 км на Пд ад Магілёва, чыг. станцыя на лініі Магілёў — Жлобін, аўтадарогамі звязаны з Магілёвам, Рагачовам, з аўтамагістралямі Магілёў — Гомель і Магілёў — Бабруйск. 11 тыс. жыхароў у 1939. 5.7.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На ўсх. беразе Дняпра ў раёне Б. да 10 ліп. абарону трымалі часці 187-й стралк. дывізіі 45-га стралк. корпуса 13-й арміі. Акупанты разбурылі горад, загубілі ў горадзе і раёне 9158 чал. У Б. і раёне дзейнічалі Быхаўскія падп. райкомы КП(б)Б (7.3.1943 — 24.2.1944) і ЛКСМБ (вер. 1942—24.2.1944), партыз. фарміраванні *Быхаўскай ваенна-аператыўнай групы*, а таксама партыз. брыгады 5-я Клічаўская, 8-я Рагачоўская, 17-я, 61-я, партыз. палкі «Трынаццаць», 15-ы, 113, 121-ы імя А. М. Касаева, 208-ы імя Сталіна, 255-ы, 277, 537-ы; асобныя партыз. атрады 19-ы, 25, 100, 115, 278, 538, 540, 620-ы імя Чапаева, імя Катоўскага (гл. адпаведныя арт.), выдавалася падп. газ. *«Партизан Быховщины»*. Вызвалены 28.6.1944 воінамі 362-й стралк. дывізіі (ген.-маёр М. А. Еншын) 19-га стралк. корпуса

(ген.-маёр Дз. І. Самарскі) 50-й арміі 2-га Бел. фронту ў ходзе *Магілёўскай аперацыі 1944.* У Б. брацкая магіла барацьбітоў за Сав. ўладу, сав. воінаў і партызан, на якой пастаўлены помнік; помнік піянеру-партызану Марату Казлову; мемарыяльныя дошкі ў гонар воінаў-вызваліцеляў, Героям Сав. Саюза К. І. Арлоўскаму і В. І. Цемчуку. Працуе *Быхаўскі гісторыка-краязнаўчы музей.*

*В. В. Гетаў.*

**БЫ́ХАЎСКАЯ ВАЕ́ННА-АПЕРАТЫ́ЎНАЯ ГРУ́ПА,** Быхаўская ВАГ, Ваенна-аператыўная група пры Быхаўскім падпольным райкоме КП(б)Б, партыз. злучэнне на акупіраванай тэр. Быхаўскага, Кіраўскага, Магілёўскага, Рагачоўскага р-наў; таксама назва органа кіраўніцтва гэтым злучэннем. Уваходзіла ў *Магілёўскае партызанскае злучэнне.*

Створана ў ліп. 1943 у Быхаўскім р-не ў адпаведнасці з пастановай Магілёўскага падп. абкома КП(б)Б і загада Магілёўскай (абл.) ВАГ на базе партыз. атрадаў 810-га, 425, 225-га, расфарміраванай *партызанскай брыгады 11-й Быхаўскай* і партыз. атрада 152-га. У ліп. створаны атрад 820-ы, у жн.—830-ы. У кастр. 810-ы атрад разгорнуты ў *партызанскі полк 810-ы,* атрад 425-ы — у *партызанскі полк 425-ы,* атрад 152-і — у *партызанскі полк 152-і.* Кіраўніцтва ВАГ: сакратары падп. РК КП(б)Б Е. Ц. Андрэенкаў (ліп.— ліст. 1943), Ф. П. Падалян (ліст. 1943— люты 1944), камандзіры Падалян (ліп.—ліст. 1943), І. П. Федзячэнка (ліст. 1943 — люты 1944), нач. штаба Федзячэнка (ліп.—ліст. 1943), І. Б. Рутман (ліст. 1943— люты 1944). 24.2.1944 ВАГ (3554 чал.) злучылася з Чырв. Арміяй.

*А. Л. Манаенкаў.*

**БЫ́ХАЎСКІ ГІСТО́РЫКА-КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты 29.6.1984. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, размешчана ў 2 залах, пл. 85 м², 2728 экспанатаў асн. фонду. Экспануюцца матэрыялы аб абароне Быхава і раёна воінамі 102-й, 117, 132, 137, 151 і 187-й стралк. дывізій, дакументы і фатаграфіі военачальнікаў і абаронцаў горада. Матэрыялы аб разгортванні падполля і партыз. руху ў раёне: дакументы, фатаграфіі, рэчавыя экспанаты аб партыз. злучэнні «Трынаццаць», Быхаўскіх падп. райкомах КП(б)Б і ЛКСМБ, кіраўніках *Быхаўскай ваенна-аператыўнай групы,* камандзірах партыз. атрадаў, зброя, мед. інструменты партыз. урачоў і інш. У адной з залаў устаноўлена 14 бюстаў Герояў Сав. Саюза — ураджэнцаў Быхаўшчыны, у т. л. Дз. Я. *Аскаленкі,* Г. М. *Надтачэева,* Ф. Ф. *Раўчакова,* Ф. А. *Смалячкова,* Г. М. *Станкевіча* і інш. Асобны стэнд прысвечаны земляку — маршалу авіяцыі Герою Сав. Саюза С. А. *Красоўскаму.* Матэрыялы аб баях за Лудчыцкую вышыню пры вызваленні раёна, фатаграфіі 11 герояў Сав. Саюза — удзельнікаў вызвалення Быхаўшчыны, у т. л. І. А. Барысевіча, П. Дз. Вінічэнкі, Б. Я. Каваленкі, М. Умурдзінава, Г. Якубава і інш. На стэндах экспанаты аб воінах 16 стралк. дывізій 3-й і 50-й армій, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Быхаўшчыны.

*С. М. Бажкоў.*

**БЫЦЕНСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ МІЖРАЙКО́М КП(б)Б.** Дзейнічаў з 24.9 да 4.11.1943 пад кіраўніцтвам *Баранавіцкага падпольнага абкома КП(б)Б.* Узначальваў падп. і партыз. барацьбу супраць ням.-фаш. захопнікаў, праводзіў паліт. і арганізатарскую работу сярод насельніцтва Быценскага і Ляхавіцкага р-наў. Накіроўваў дзейнасць Быценскага і Ляхавіцкага падп. райкомаў ЛКСМБ. Сакратар міжрайкома Р. Дз. *Румянцаў,* члены: С. С. Жарыкаў, В. З. Іваноў, М. І. Засмужац (з 18.10.1943), І. К. Баранаў (з 24.10.1943). Базіраваўся ў *партызанскай брыгадзе 20-й імя В. С. Грызадубавай.* Пераўтвораны ў Быценскі падп. райком КП(б)Б [гл. ў арт. *Раённыя падпольныя камітэты КП(б)Б*].

*М. І. Эпалетаў.*

**БЫ́ЦЕНЬ,** вёска, цэнтр сельсавета ў Івацэвіцкім р-не, на р. Шчара, за 27 км на Пн ад Івацэвіч, за 7 км ад чыг. станцыі Даманава (на лініі Баранавічы — Брэст), аўтадарогай звязан з Слонімам і з аўтадарогай Баранавічы — Брэст. У 1940—57 цэнтр Быценскага р-на. У чэрв. 1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія за час акупацыі знішчылі ў раёне 1816 сав. грамадзян. На тэр. раёна дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б (4.11.1943—12.7.1944) і ЛКСМБ (24.10.1943—12.7.1944), партыз. брыгады: 8-я, 20-я імя Грызадубавай, імя Ракасоўскага і асобны партыз. атрад імя Чапаева (гл. адпаведныя артыкулы). Выдавалася падп. газ. *«На разгром врага».* Вызвалены 10.7.1944 войскамі 1-га Бел. фронту ў перыяд Беларускай аперацыі 1944. У Б. брацкая магіла сав. воінаў, якія загінулі ў 1941 і ў час вызвалення райцэнтра ў ліп. 1944, на ёй устаноўлены помнік.

*М. І. Камінскі.*

**БЫ́ЧАК** Алег Сяргеевіч (18.9.1921, г. Бабровіца Чарнігаўскай вобл.— 7.5.1944), удзельнік партыз. руху на Беларусі. Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС. Скончыў пяхотнае вучылішча (1941). У вер.— ліст. 1941 пам. камандзіра ўзвода атрада «Смерць фашызму», які выконваў спец. заданне ў акупіраваных Калінінскай, Смаленскай і Віцебскай абл. З чэрв. 1943 камандзір *партызанскага атрада «Трэція»,* які дзейнічаў на тэр. Вілейскай, Віцебскай і Мінскай абл. Загінуў пры выкананні баявога задання. Пахаваны ў г. Бабровіца, на магіле помнік. Яго імем названы вуліцы ў г. Бабровіца, Мядзель.

**БЫЧЫ́ХІНСКІ БОЙ 1942** зводнага атрада *партызанскай брыгады 2-й Беларускай імя П. К. Панамарэнкі* супраць ням.-фаш. акупантаў на ст. Бычыха Мехаўскага р-на. У ноч на 15.7.1942 партызаны ў складзе 220 чал. з боем прарвалі драцяныя загароды, уварваліся ў акопы і апорныя пункты ворага, акружылі і разграмілі фаш. гарнізон на станцыі і тэр. былой МТС. У час бою спалены склады з гаручым, знішчаны 4 вагоны, 9 аўтамашын, падарваны 2 чыг. масты, разбурана чыг. палатно, пашкоджана сувязь, захоплены зброя, боепрыпасы, амуніцыя. Чыгунка Віцебск — Невель была выведзена са строю больш як на суткі. У 1965 у гонар баявых дзеянняў партызан на будынку станцыі ўстаноўлена мемар. дошка.

*Р. А. Чарнаглазава.*

**«БЮЛЕТЭ́НЬ ГАЗЕ́ТЫ «ПАРТЫЗА́Н БЕЛАРУ́СІ»,** орган *Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б.* Вядомы 8 нумароў за люты — май 1943 на бел. мове.

**«БЮЛЛЕТЕ́НЬ «СЯЛЯ́НСКАЙ ГАЗЕ́ТЫ»,** орган *Вілейскага падпольнага абкома КП(б)Б.* Вядомы 29 нумароў за 6.1— 28.9.1943 на рус. мове (асобныя нумары на бел. і рус. мовах). Рэдактар П. М. Альшанскі.

**БЯГО́МЛЬ,** гар. пасёлак у Докшыцкім р-не, на р. Мажанка. За 30 км на ПдУ ад Докшыц, 37 км ад чыг. ст. Параф'янава на лініі Маладзечна — Полацк, аўтадарогамі звязаны з Мінскам, Віцебскам, Барысавам, Докшыцамі. У 1924—60 цэнтр Бягомльскага р-на. 2.7.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў пасёлку і раёне 3300 чал. Акупанты размясцілі ў пасёлку гарнізон і ператварылі яго ва ўмацаваны пункт з агнявымі кропкамі, акопамі, дзотамі. Яму адводзілася роля апорнага пункта па ажыццяўленню ўзаемадзеянняў ням.-фаш. гарнізонаў для барацьбы з партыз. рухам у паўн.-ўсх. раёнах Мінскай вобл. У райцэнтры з жн. 1941 дзейнічала падп. парт.-камсам. арг-цыя (гл. *Бягомльскае партыйна-камсамольскае падполле),* у Б. і раёне падп. райкомы КП(б)Б (3.8.1942— 28.6.1944) і ЛКСМБ (жн. 1942— 28.6.1944), партыз. брыгады «Жалязняк», «Дзядзькі Колі», М. М. Нікіціна, асобны дыверсійны атрад І. М. Кузіна (гл. адпаведныя артыкулы). 20.12.1942 партызаны разграмілі ў гарадскім пасёлку гарнізон ворага і аднавілі Сав. ўладу (гл. *Бягомльская аперацыя 1942).* Тэр. раёна ўваходзіла ў *Барысаўска-Бягомльскую партызанскую зону.* У Б. базіраваліся падп. райком партыі, штаб брыгады «Жалязняк», дзейнічала партыз. камендатура, перасоўны шпіталь, друкарня, дзе выдавалася падп. газета *«Советский патриот».* Быў адноўлены тэлефонны вузел і наладжана пастаянная сувязь з партыз. атрадамі, *Барысаўскім падпольным міжрайпартцэнтрам.* З сак. 1943 тут дзейнічаў партыз. аэрадром, на які лётчыкі 101-га авіяпалка далёкага дзеяння (камандзір В. С. Грызадубава) сістэматычна дастаўлялі зброю, боепрыпасы, медыкаменты, газеты і інш.

для партызан Барысаўска-Бягомльскай зоны, суседніх раёнаў Віцебскай і Вілейскай абл., партызан Літвы, вывозілі на Вял. зямлю параненых, хворых, дзяцей. Акупанты правялі некалькі карных аперацый супраць партызан. У час аперацыі *«Котбус»* (май — чэрв. 1943) у Б. знаходзіўся штаб партыз. брыгады «Жалязняк». Самалёты ворага бамбілі пасёлак, пасля шматдзённых баёў карнікі занялі яго, але да канца ліп. 1943 зноў былі выбіты партызанамі брыгады «Жалязняк». У час карнай аперацыі *«Баклан»* (май — чэрв. 1944) немцы 5 чэрв. занялі пасёлак. Вызвалены 1.7.1944 воінамі 277-й стралк. дывізіі (ген.-маёр С. Ц. Гладышаў), 7-й механізаванай брыгады (палк. М. І. Радзіёнаў) 3-га Бел. фронту і партызанамі брыгады «Жалязняк» (камандзір І. П. Ціткоў) у ходзе *Мінскай аперацыі 1944.* У Б. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, на ёй помнік; помнікі землякам, якія загінулі ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў, ахвярам фашызму, у гонар дружбы бел. і літоўскіх партызан і ў памяць аб партыз. аэрадроме, помнікі Вызваленя, Партызанскай славы; мемар. дошка падпольшчыкам. Працуе *Бягомльскі музей народнай славы.*

*В. С. Паваліхіна.*

**БЯГО́МЛЬСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з ліп. 1941 да вер. 1942. Мела 2 групы, каля 20 падпольшчыкаў. Група ў г. п. Бягомль, якую ўзначальваў камуніст Я. А. Шаўцоў, створана ў жн. 1941 па заданню сакратара Бягомльскага РК КП(б)Б С. С. *Манковіча,* закінутага ў тыле ворага для падп. работы. У яе, акрамя Шаўцова, уваходзілі камуністы Ф. А. Буланда, Н. І. Бычынская, К. Дз. Патапейка, камсамольцы У. Г. Ганчар, У. А. і М. А. Печань, У. В. Таракан, С. С. Хацкевіч. Партыйна-камсам. група ў в. Нябышына ўзнікла ў ліп. 1941, арганізатар і кіраўнік А. Ф. Фрол. Падпольшчыкі былі звязаны з партыз. групамі і атрадамі, збіралі і перадавалі ім зброю, боепрыпасы, звесткі аб праціўніку, харчы, бланкі дакументаў.

Патрыёты з Бягомля перапраўлі ў атрад «Барацьба» кулямёт, 20 вінтовак, некалькі скрынак гранат, толу, узрывальнікі, бікфордаў шнур. Зімой 1941—42 яны сарвалі збор цёплай вопраткі, збожжа, жывёлы, што праводзілі акупанты для ням. арміі. У сак. — крас. 1942 разам з партызанамі знішчылі ў гар. пасёлку харчовы склад, узарвалі лакамабіль прамкамбіната. Вялі актыўную работу па выкрыццю лжывай фаш. прапаганды. Мелі 2 радыёпрыёмнікі, якія былі схаваны на канспіратыўных кватэрах у Патапейкі і Таракана. Тут запісвалі зводкі Саўінфармбюро, якія потым распаўсюджвалі сярод насельніцтва.

Падпольшчыкі в. Нябышына перадалі атраду «Барацьба» каля 50 вінтовак, больш за 2 тыс. патронаў. Дзякуючы іх інфармацыі, партызаны атрада «Рамана» ў жн. 1942 адбілі ў праціўніка 50 падвод солі і раздалі яе насельніцтву.

У канцы мая 1942 фашысты раскрылі падп. групу ў Бягомлі. У чэрв. 1942 пасля катаванняў пакараны смерцю Ф. А. Буланда, Н. І. Бычынская, У. Г. Ганчар, К. Дз. Патапейка, У. А. Печань, М. А. Печань, У. В. Таракан, С. С. Хацкевіч, Я. А. Шаўцоў. У вер. 1942 палавіна нябышынскіх падпольшчыкаў пайшла ў партызаны і група спыніла дзейнасць. Астатнія патрыёты былі сувязнымі *партызанскай брыгады «Жалязняк»* да вызвалення раёна ад ням.-фаш. акупантаў.

У Бягомлі ў гонар падпольшчыкаў у 1979 устаноўлена мемар. дошка.

*М. Ф. Шумейка.*

**БЯГО́МЛЬСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1942,** баі партыз. брыгады «Жалязняк» па вызваленню ад акупантаў тэр. Бягомльскага р-на ў ліст.— снеж. 1942. Паводле рашэння Барысаўскага падп. міжрайкома атрад Дзякава — Манковіча колькасцю 122 чал. 16.10.1942 быў рэарганізаваны ў партыз. брыгаду «Жалязняк» (камандзір І. П. Ціткоў, камісар С. С. Манковіч, нач. штаба Л. П. Бірукоў). За месяц асабовы склад брыгады павялічыўся да 400 чал., і 23.11.1942 яна пачала аперацыю па выгнанню акупантаў з Бягомльскага р-на шляхам блакады буйных гарнізонаў. Аперацыя праводзілася ў тры этапы. 23.11—12.12. 1942 3-і атрад брыгады, ажыццявіўшы кругавую блакаду і адбіўшы атакі танкаў з Лепеля, з дапамогай мінных палёў не дапусціў на працягу 18 дзён падвозу прадуктаў харчавання ў гарнізон аховы Кальніцкага (цераз р. Бярэзіна, даўжыня з дамбамі 170 м) і Бузянскага (цераз р. Сергуч, 130 м) мастоў на аўтастрадзе Мінск — Віцебск і гэтым вымусіў ням. гарнізон аховы мастоў да ўцёкаў. 12.12.1942 абодва масты былі знішчаны, і гарнізон Бягомля апынуўся адрэзаным ад Лепельскага гарнізона, а шаша Мінск—Віцебск выведзена са строю на ўвесь перыяд акупацыі. 5—14.12.1942 1-ы атрад, частка 2-га і 3-га атрадаў брыгады «Жалязняк» двойчы правялі рэйды вакол гарнізона Бягомля па маршруце Беразіно — Ліпск — Бабцы — Воўча — Вуглы — Бярозкі — Мацееўцы — Нябышына — ваколіцы г. Докшыцы — чыг. ст. Параф'янава, знішчаючы на сваім шляху дробныя гарнізоны ворага, масты, лініі сувязі. 17—18.12.1942 брыгада «Жалязняк» ноччу па агародах увайшла ў Бягомль поўным складам і штурмам захапіла раённы цэнтр, акрамя ўмацаванага будынка б. турмы, дзе размяшчаўся гарнізон ворага. У Бягомлі былі знішчаны склады, акупацыйныя ўстановы і прадпрыемствы, вывезены прадукты харчавання. 19.12.1942 на дапамогу акружанаму партызанамі гарнізону з Мінска з баямі прарваўся 102-і паліцэйскі батальён. У той жа дзень брыгада «Жалязняк» сканцэнтравалася для трэцяга штурму гарнізона. Але абкружаны гарнізон і паліцэйскі батальён, апынуўшыся поўнасцю без прадуктаў харчавання і будучы дэзінфармаваным аб колькасці партызан, з наступленнем цемнаты з баямі адступілі ў бок Мінска. Да 21 гадз 19.12.1942 Бягомль і Бягомльскі р-н поўнасцю вызвалены ад акупантаў. 20.12.1942 у Бягомлі адбыўся мітынг партызан і насельніцтва.

*Л. П. Бірукоў.*

**БЯГО́МЛЬСКІ МУЗЕ́Й НАРО́ДНАЙ СЛА́ВЫ.** Адкрыты 8.5.1970. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, размешчана ў 4 залах, пл. 360 м², 1060 экспанатаў асн. фонду. У экспазіцыі матэрыялы пра пачатковы перыяд вайны, удзел землякоў у абароне Брэсцкай крэпасці, Масквы, Ленінграда, Сталінграда, фатаграфіі сав. лётчыкаў, якія загінулі ў 1941 на тэр. раёна. Расказваецца аб разгортванні падполля і партыз. руху ў краі, стварэнні *Барысаўска-Бягомльскай партызанскай зоны.* Экспануюцца радыёпрыёмнік, па якім падпольшчыкі прымалі зводкі Саўінфармбюро, карта-схема разгрому варожага гарнізона ў Бягомлі ў 1942, тэлефонны апарат і камутатар партыз. брыгады «Жалязняк», макет партыз. шпіталя, мед. інструменты ўрачоў, друкарскі станок і наборная каса друкарні, дзе выпускаліся падп. газ. *«Советский патриот»,* лістоўкі, матэрыялы пра партыз. зброевыя майстэрні, Бягомльскі партыз. аэрадром і інш., фатаграфіі кіраўнікоў партыз. руху Р. А. Дзякава, Героя Сав. Саюза С. С. *Манковіча,* Р. Н. *Мачульскага,* І. П. *Ціткова* і інш. Дакументы і фатаграфіі аб злачынствах ням.-фаш. захопнікаў у раёне. Матэрыялы пра вызваленне Бягомля і раёна воінамі 277-й стралк. дывізіі, пра воінаў-вызваліцеляў, у т. л. Герояў Сав. Саюза А. А. Асланава, В. С. Кладзіева, І. С. Палявога, землякоў Герояў Сав. Саюза Ф. І. *Перхаровіча,* А. І. *Чарныша,* А. Г. *Юхнайца* і інш.



Бягомльскі музей народнай славы. Макет партызанскага шпіталя.

*Дз. І. Грабоўскі.*

**БЯГУ́Н** Пётр Андрэевіч (1.5.1907, в. Бардзілаўка Мінскага р-на — 10.6. 1978), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1932. З 1932 на парт., сав. і адм.-гасп. рабоце. З 1941 у тыле ворага. У лютым-ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады 18-й імя М. В. Фрунзе,* адначасова з лют. 1944 сакратар Клецкага падп. РК КП(б)Б, з крас. 1944 нам. упаўнаважанага ЦК КП(б)Б і БШПР у паўд. раёнах Баранавіцкай вобл., у крас.— маі 1944 в. а. камандзіра *Баранавіцкай паўднёвай зоны партызанскага злучэння.* У 1944—62 на парт. і адм.-гасп. рабоце.


А. С. Бычак.


Л. І. Бяда.


Ф. М. Бялевіч.


П. А. Бялоў.

**БЯДА́** Леанід Ігнатавіч (16.8.1920, с. Новапакроўка Урыцкага р-на Кустанайскай вобл.— 26.12.1976), двойчы Герой Сав. Саюза (1944, 1945), ген.-лейт. авіяцыі (1972). Заслужаны ваен. лётчык СССР (1971). Чл. КПСС з 1942. Скончыў Чкалаўскую авіяцыйную школу пілотаў (1942), Ваенна-паветр. акадэмію (1950), Ваен. акадэмію Геншітаба (1957). З жн. 1942 на Сталінградскім, Паўд., 4-м Укр., 3-м Бел. франтах — пілот, камандзір эскадрыллі штурмавога авіяпалка. Удзельнік Сталінградскай бітвы, вызвалення Украіны, Беларусі, Літвы, наступальных аперацый ва Усх. Прусіі і Польшчы. Зрабіў 214 баявых вылетаў. Пасля вайны ў БВА. Дэп. ВС БССР у 1959—63. Загінуў у аўтакатастрофе. У Мінску і Лідзе яго імем названы вуліцы.

**БЯЛЕ́ВІЧ** Фёдар Мікалаевіч (н. 21.5. 1923, ст. Бада Хілокскага р-на Чыцінскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1945). Беларус. На фронце з чэрв. 1942. Удзельнік баёў пад Сталінградам, Ржэвам, Ярцавам, вызвалення Беларусі, Польшчы, Берлінскай аперацыі. Вызначыўся ў баях каля Франкфурта-на-Одэры ў крас. 1945. Кулямётчык Б. з групай салдат 3 гадзіны адбіваў варожыя контратакі. Парансны, не пакінуў захопленых пазіцый. Жыве і працуе ў Мінску.

**БЯЛО́Ў** Павел Аляксеевіч (18.2.1897, г. Шуя Іванаўскай вобл.— 3.12.1962), Герой Сав. Саюза (1944), ген.-палк. (1944). Чл. КПСС з 1925. У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1938), Вышэйшыя акадэмічныя курсы (1949). У Айч. вайну кав. корпус пад яго камандаваннем удзельнічаў у бітве пад Масквой, 5 месяцаў змагаўся ў тыле ворага на тэр. Смаленскай вобл. З чэрв. 1942 камандуючы 61-й арміяй, якая прайшла баявы шлях ад Арла да Берліна, фарсіравала Дняпро на Беларусі, вызваляла Калінкавічы, Мазыр, Пінск, Кобрын, Брэст. Вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра. Пасля вайны да 1955 у Сав. Арміі. Дэп. ВС СССР у 1946—62. Яго імем названы вуліцы ў гарадах Брэст, Калінкавічы, Пінск.

**БЯЛО́Ў** Рыгор Андрэевіч (н. 12.10. 1901, с. Сара Сурскага р-на Ульянаўскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1944), ген.-лейт. (1953). Чл. КПСС з 1919. У Чырв. Арміі з 1920. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваенна-паліт. акадэмію імя Леніна (1930), Вышэйшыя акадэмічныя курсы пры акадэміі Генштаба (1947). З ліп. 1942 на Бранскім, Варонежскім, Зах., Цэнтр., Бел., 1-м Бел. франтах. 16-я гвардз. кав. дывізія пад яго камандаваннем вызначылася ў баях пры вызваленні Чарнігава, фарсіраванні Дняпра на Гомельшчыне, пры ліквідацыі рэчыцкай групоўкі праціўніка і вызваленні г. Мазыр. Да 1962 у Сав. Арміі. Ганаровы грамадзянін г. Брандэнбург (ГДР). Аўтар кн. «Шлях мужнасці і славы» (Уфа, 1967, 2 выд., 1978).



**БЯЛЫ́НІЦКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з ліп. 1941 да кастр. 1943; з сак. 1943 пад кіраўніцтвам Бялыніцкага падп. РК КП(б)Б. Група ў г. п. Бялынічы налічвала больш за 20 чал. Кіраўнікі І. С. Корзун, Л. У. Бабіч, у в. Вялікі Трылесін Бялыніцкага р-на — камсам. група з 10 чал., узначальвалі І. А. Марозаў, У. В. Лапухін.

Падпольшчыкі вялі агітацыю сярод насельніцтва, мелі радыёпрыёмнік. С. І. Старавойтаў і У. С. Талан, якія працавалі на радыёвузле акупантаў, прымалі, размнажалі і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро. Падтрымлівалі сувязь з партызанамі, перадалі ім 4 кулямёты, каля 50 вінтовак, вялікую колькасць патронаў, медыкаментаў, паведамлялі звесткі пра варожыя гарнізоны, зрывалі вываз моладзі на катаргу ў Германію. Разам з партызанамі падпольшчыкі ў маі 1943 здзейснілі дыверсію на збожжаскладзе, у вер. 1943 разграмілі гарнізон акупантаў у Бялынічах. Падпольная група в. Вялікі Трылесін перад адыходам у партыз. атрад здабыла ручны кулямёт, 23 вінтоўкі, 2 скрынкі гранат.

У барацьбе з ням.-фаш. акупантамі загінулі многія падпольшчыкі, у т. л.: К. П. Аўрамава, Л. У. Бабіч, С. П. Гарэлік, С. У. Маразевіч, К. С. Міцькоў, Д. А. Хадоркін, С. Ф. Цітоў, Г. І. Чорная, К. А. Чуліцкі. У в. Вялікі Трылесін у гонар камсамольцаў-падпольшчыкаў пастаўлены абеліск.

*А. Б. Рогаў.*

**БЯЛЫ́НІЦКАЯ ВАЕ́ННА-АПЕРАТЫ́ЎНАЯ ГРУ́ПА,** Бялыніцкая ВАГ, Ваенна-аператыўная група пры Бялыніцкім падпольным райкоме КП(б)Б, партыз. злучэнне на акупіраванай тэр. Бялыніцкага і Шклоўскага р-наў; таксама назва органа кіраўніцтва гэтым злучэннем. Уваходзіла ў *Магілёўскае партызанскае злучэнне.*

Створана ў ліп. 1943 у адпаведнасці з пастановай Магілёўскага падп. абкома КП(б)Б у складзе партыз. атрадаў 122-га «За Радзіму», 600-га, 760-га імя М. Беразоўскага, перададзеных з расфарміраванай *партызанскай брыгады 6-й Магілёўскай.* У верасні ўвайшоў атрад 35-ы. У кастр. 1943 атрад 122-і «За Радзіму» разгорнуты ў *партызанскі полк 122-і «За Радзіму»*, у студз. 1944 атрад 600-ы — у *партызанскі полк 600-ы.* Кіраўніцтва ВАГ: сакратар падп. РК КП(б)Б В. І. Падаляка (ліп. 1943 — чэрв. 1944), камандзіры З. П. Гапонаў (ліп. 1943 — крас. 1944), Д. І. Фядотаў (май — чэрв. 1944), нач. штаба Фядотаў (ліп. 1943 — май 1944), В. Дз. Шваграынаў (май 1944), Г. І. Георгіеўскі (чэрв. 1944). 30.6.1944 ВАГ (2895 партызан) злучылася з Чырв. Арміяй.

*П. С. Паўлавец.*

**БЯЛЫ́НІЦКІЯ АПЕРА́ЦЫІ 1943,** наступальныя баі Магілёўскага партыз. злучэння пад кіраўніцтвам Магілёўскага падп. абкома КП(б)Б супраць сістэмы ням.-фаш. гарнізонаў у Бялыніцкім, Быхаўскім, Бярэзінскім, Кіраўскім, Клічаўскім р-нах у крас., жн. і вер. 1943 з мэтай іх адначасовага знішчэння; найб. буйныя аперацыі партыз. злучэнняў Беларусі супраць тылавых гарнізонаў праціўніка ў перыяд Вял. Айч. вайны.

Першую аперацыю па адначасовым разгроме некалькіх гарнізонаў праціўніка (вёскі Бахань, Глыбокі Брод,Ästчаны, Журавок, Забавы, Заполле, Макаўка, Сямікаўка) правялі ў ноч на 13.4.1943 партыз. брыгады 2-я і 5-я Клічаўскія, 3-я Бярэзінская, 6-я Магілёўская. Наступальным дзеянням партызан папярэднічала дакладная разведка. Раптоўным ударам нар. мсціўцы з ходу захапілі абарончыя ўмацаванні ворага, зрабілі засады на магчымых шляхах адыходу акупантаў. Да раніцы 13.4. 1943 8 варожых гарнізонаў перасталі існаваць, больш за 200 гітлераўцаў забіты, страты партызан — 17 забітых, 40 параненых. Партызаны разбурылі 40 бліндажоў і дзотаў, захапілі 3 мінамёты, 16 кулямётаў, 150 вінтовак, аўтаматаў і інш. зброі, амуніцыю, боепрыпасы. У ноч на 26.8. 1943 партызаны (*партызанскі полк 208-ы імя І. В. Сталіна*, асобныя атрады 12-ы, 28, 36, 113, 121-ы, 122-і «За Радзіму», 152-і, 277-ы, 425, 810-ы) правялі ў трохвугольніку в. Паплавы — чыг. ст. Тошчыца (на ўчастку Орша — Жлобін) — г. п. Бялынічы другую аперацыю: разграмілі 8 ням.-фаш. гарнізонаў у в. Вяшэўка, Гарэнічы, Нясята, Арэшкавічы, Падсёлы, Паплавы, Тошчыца і Шавярнічы, на агульнай пл. больш за 1500 км². Адначасова адбыўся сустрэчны бой 113-га і 121-га партыз. атрадаў (гл. *Партызанскі полк 113-ы* і *Партызанскі полк 121-ы імя А. М. Касаева*) і 208-га партыз. палка імя Сталіна з 700-м ахоўным палком гітлераўцаў і прыдадзенымі яму спец. падраздзяленнямі, якія выходзілі на карную аперацыю *«Івайоў»*. Партызаны перахапілі і знішчылі калону аўтамашын з карнікамі, разграмілі штабную роту і адзін батальён, прымусілі карнікаў адступіць. Гітлераўцы страцілі 238 забітымі, параненымі і палоннымі, партызаны — 12 забітымі, 33 паранеными. Трэцюю аперацыю партызаны правялі ў ноч на 11.9.1943. У ёй удзельнічалі 208-ы партыз. полк імя Сталіна і 27 атрадаў Бялыніцкай, Бярэзінскай, Быхаўскай, Клічаўскай, Круглянскай, Магілёўскай і Шклоўскай ВАГ, усяго больш за 4 тыс. чалавек. Партызаны адначасова атакавалі ням.-фаш. гарнізоны ў г. п. Бялынічы, вёсках Малая і Вял. Машчаніца, Дашкаўка, Галоўчын, Алешкавічы, Пушча, на чыг. раз'ездзе № 14 на лініі Магілёў — Быхаў, ваен. гарадку ў в. Салтанаўка, а таксама апорныя пункты каля мастоў цераз рэкі Друць і Аслік (Асліўка) на шашы Магілёў — Мінск. Гарнізон у г. п. Бялынічы (батальён РВА і каля 500 гітлераўцаў) займаў ключавое становішча ў сістэме апорных пунктаў ворага ў міжрэччы Дняпра і Бярэзіны на З ад Магілёва і з'яўляўся гал. плацдармам карных аперацый акупантаў у Бялыніцкім і суседніх з ім раёнах. У сістэму яго абароны ўваходзілі апорныя пункты цераз рэкі Друць і Аслік, дзе знаходзілася больш за 75 гітлераўцаў, узброеных артылерыяй, мінамётамі і кулямётамі. Падыходы да ўсіх гарнізонаў прыкрывалі шматлікія дзоты. Больш за 3 гадзіны працягваўся бой за Бялынічы. Вораг упарта супраціўляўся, але партызаны разграмілі гарнізоны ў Бялынічах і каля мастоў, што вызначыла поспех усёй аперацыі. У ходзе 3-й аперацыі знішчана і ўзята ў палон больш за 300 гітлераўцаў, партызаны страцілі 73 чал. забітымі і параненымі. Паўсюдна знішчаліся казармы, умацаванні, ваен. тэхніка, склады, захоплена шмат стралк. зброі і боепрыпасаў, некалькі соцень галоў буйной рагатай жывёлы і коней, важная дакументацыя праціўніка.

У выніку Б. а. 1943 аб'яднаныя сілы партызан Магілёўскай вобл. раптоўным адначасовым ударам нанеслі ворагу цяжкія страты ў жывой сіле і тэхніцы, сарвалі карна-драпежныя акцыі супраць мірнага насельніцтва, якія рыхтаваліся, чым выратавалі тысячы мірных жыхароў ад знішчэння, грабяжу і вывазу на катаржныя работы ў Германію, амаль поўнасцю ачысцілі ад акупантаў Бялыніцкі р-н (за выключэннем г. п. Бялынічы) і на некалькі сутак вывелі са строю ўчастак шашы Магілёў — Мінск у раёне Бялыніч і ракадную чыг. лінію Магілёў — Жлобін на Пн ад Быхава.

*У. С. Пасэ.*

**БЯЛЫ́НІЧЫ,** гар. пасёлак, цэнтр Бялыніцкага р-на. За 44 км на З ад Магілёва, на аўтадарозе Мінск — Магілёў. У пачатку ліп. 1941 на рубяжы р. Друць у раёне Б. абарончыя баі вялі перадавы атрад ст. лейт. А. П. Валчка з 172-й стралк. дывізіі, рота лейт. В. Ф. Чуракова з 53-й стралк. дывізіі 61-га стралк. корпуса, арт. дывізіён капітана Б. Л. *Хігрына* 462-га арт. палка разам з часцямі прыкрыцця 20-га механізаванага і 4-га паветрана-дэсантнага карпусоў. Гарадскі пасёлак пераходзіў з рук у рукі, сав. воіны нанеслі праціўніку значныя страты ў жывой сіле, знішчылі некалькі танкаў, інш. тэхніку ворага. 6.7.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў Б. і раёне 1968 чалавек. У гар. пасёлку і раёне дзейнічалі *Бялыніцкае партыйна-камсамольскае падполле,* Бялыніцкія падп. райкомы КП(б)Б (8.3.1943 — 30.6.1944) і ЛКСМБ (14.2.1943—30.6. 1944), партыз. фарміраванні *Бялыніцкай ваенна-аператыўнай групы,* а таксама партыз. брыгады 1-я, 2-я, 5-я Клічаўскія, 3-я Бярэзінская, 6-я Магілёўская, 8-я Круглянская, 130-я «Помста», «Чэкіст», 1-я, 3, 5, 61-я, партыз. палкі 113-ы, 121-ы імя А. М. Касаева, 208-ы імя Сталіна, 277-ы, «Трынаццаць», асобныя партыз. атрады 1-ы, 5, 10, 11, 12, 13, 20, 31, 60-ы імя Ф. М. Сядлецкага,

61-ы, 115, 278-ы, «Слаўны» (гл. адпаведныя арт.), выдавалася падп. газ. *«Народные мстители»*. У ноч на 11.9. 1943 партызаны і падпольшчыкі нанеслі магутны ўдар па варожым гарнізоне ў Б. (гл. *Бялыніцкія аперацыі 1943*). Вызвалены 29.6.1944 воінамі 32-й (палк. П. К. Штэйгер) і 42-й (палк. А. І. Сліц) стралк. дывізій 49-й арміі 2-га Бел. фронту ў ходзе *Мінскай аперацыі 1944*. У Б. брацкія магілы сав. воінаў і партызан, у адной з якіх пахаваны Герой Сав. Саюза Б. Л. Хігрын, магіла ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі; помнік Вызвалення. *В. В. Гетаў.*



Е. С. Бялявін.



М. Р. Бяляеў.



Дз. В. Бярнацкі.

**БЯЛЯ́ВІН** Евель Самуілавіч (3.5.1920, Барысаў — 10.9.1972), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1941. Скончыў Мінскі аэраклуб (1937), ваен. школу лётчыкаў. З ліст. 1941 на Паўд., Закаўказскім, Сцяпным, 2-м і 1-м Укр. франтах: камандзір авіязвяна, эскадрыллі бамбардзіроўшчыкаў. Зрабіў каля 300 баявых вылетаў на бамбардзіроўку ваен. аб'ектаў ворага. У час баёў на Белгарадска-Харкаўскім напрамку Б. сваёй машынай засланіў падбіты самалёт камандзіра эскадрыллі, прыняў агонь на сябе, даў яму магчымасць выйсці з небяспечнай зоны, а потым пасадзіў свой пашкоджаны самалёт на бліжэйшы аэрадром. У ліку першых сав. лётчыкаў у 1945 штурмаваў з паветра Берлін. Да 1958 у Сав. Арміі, палкоўнік. Яго імем названа вуліца ў Барысаве.

**БЯЛЯ́ЕЎ** Валянцін Емяльянавіч (н. 19.10.1914, в. Вядзец Сенненскага р-на), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1939. Скончыў Мінскую ВПШ (1959). Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. З жн. 1941 на Зах. фронце. У партызанах з крас. 1942: камандзір групы, з вер. 1942 — атрада, у вер. 1943 — чэрв. 1944 камісар *партызанскай брыгады 2-й імя К. С. Заслонава*. З 1944 на гасп., парт., прафс. і сав. рабоце.

**БЯЛЯ́ЕЎ** Мікалай Рыгоравіч (н. 5.6. 1925, в. Кругліца Быхаўскага р-на), поўны кавалер ордэна Славы. З сак. 1944 на 1-м Бел. фронце. Камандзір мінамётнага разліку ст. сяржант Б. вызначыўся ў баях на тэр. Польшчы і Германіі: 7.10.1944 у раёне Магнушаўскага плацдарма знішчыў кулямёт і рассеяў каля ўзвода пяхоты праціўніка; 31.1.1945 у баях за г. Шверын ліквідаваў 3 варожыя агнявыя кропкі; 16.4.1945 у час прарыву абароны праціўніка і ў баях на Зеелаўскіх вышынях знішчыў 3 кулямётныя кропкі, больш за 25 гітлераўцаў, у баях за Берлін — 2 варожыя кулямёты з разлікамі. Жыве і працуе ў Ужгарадзе.

**БЯЛЯ́ЕЎ** Якаў Дзмітрыевіч (15.3. 1918, в. Піхалева Кінешамскага р-на Іванаўскай вобл. — 6.7.1941), Герой Сав. Саюза (1941). Чл. КПСС з 1941. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. На фронце з чэрв. 1941. Камандзір бронемашыны сяржант Б. вызначыўся ў абарончых баях на Беларусі: 25.6.1941 каля в. Астрашыцкі Гарадок з экіпажам знішчыў танк і 3 матацыклы, 6.7.1941 каля вёсак Гібайлавічы і Сомры Крупскага р-на, калі гітлераўцы спрабавалі адрэзаць адыход 100-й стралк. дывізіі, знішчыў 4 аўтамашыны з пяхотай праціўніка. Працягваў весці бой з падпаленай ворагам бронемашыны, потым разам з экіпажам уступіў у рукапашны бой, у якім загінуў. Перапахаваны ў г. п. Крупкі; яго імем названы вуліцы ў Крупках. Кінешме.

**БЯЛЯ́Й** Максім Савіч (11.11.1906, г. Тураў Жыткавіцкага р-на — 5.11. 1973), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Пінскай вобл. Чл. КПСС з 1930. Скончыў Гомельскую саўпартшколу (1933). З 1937 на парт. рабоце ў Мінскай вобл. З чэрв. 1941 на падп. рабоце ў тыле ворага. У чэрв.— жн. 1943 камісар партыз. атрада імя М. І. Кутузава брыгады імя У. І. Леніна. З 16.7.1943 да 7.7.1944 сакратар Ганцавіцкага падп. РК КП(б)Б. У 1944—46 1-ы сакратар Ганцавіцкага, 2-і сакратар Лагішынскага райкомаў КП(б)Б, да 1972 на адм.-гаспадарчай рабоце.

**БЯЛЯ́ЎСКІЯ,** браты, удзельнікі Аршанскага парт.-камсам. падполля і партыз. руху на тэр. Віцебскай вобл. Нарадзіліся ў г. Орша.

Анатоль Іванавіч (18.11. 1922— май 1945), чл. ВЛКСМ. Скончыў 7 класаў. Працаваў на Аршанскім ільнозаводзе.

Іван Іванавіч (22.2.1924— сак. 1942), чл. ВЛКСМ. Скончыў 7 класаў.

Барыс Іванавіч (3.3.1927— 25.1.1944), чл. ВЛКСМ. Скончыў 7 класаў.

Канстанцін Іванавіч (29.12. 1929— сак. 1944), піянер. Скончыў 4 класы.

У жн. 1941 І. Бяляўскі арганізаваў падп. групу. У яе ўваходзілі ўсе яго браты і маці Ганна Трафімаўна. Уладкаваўшыся на Аршанскі чыг. вузел на работу па рамонту вагонаў, браты Бяляўскія сістэматычна псавалі шыйкі колавых пар, падсыпалі пясок у буксы. Такімі няспраўнымі вагонамі былі забіты палявыя станцыі, запасныя пуці ст. Орша. Двойчы выводзілі са строю кампрэсарную станцыю, здабывалі зброю для партызан. І. Бяляўскі знішчыў камендanta ст. Орша, за што закатаваны фашыстамі. Групу ўзначаліў А. Бяляўскі. Калі навісла пагроза арышту, браты пайшлі да партызан і з ліп. 1943 сталі байцамі атрада «Дзядзькі Косці» *партызанскай брыгады 1-й імя К. С. Заслонава*. Яны ўваходзілі ў састаў дыверсійнай групы. Б. Бяляўскі загінуў у баі, пахаваны ў в. Вароніна Сенненскага р-на. К. Бяляўскі цяжка паранены ў баі, памёр у час эвакуацыі на Вял. зямлю. А. Бяляўскі працягваў змагацца з ворагам у партыз. атрадзе, а пасля злучэння з часцямі Чырв. Арміі — на фронце. Загінуў у баі ў Германіі. Імем братоў Бяляўскіх названа вуліца ў г. Орша, на будынку СШ № 14 устаноўлена мемар. дошка.

**БЯРКО́ВІЧ** Шая Іосіфавіч (14.3.1918, г. Барысаў — 31.12.1942), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсамольска-маладзёжнага падполля і партыз. руху на тэр. Пінскай вобл. Чл. КПСС з 1942. Скончыў Ленінградскі тэхнікум чыг. транспарту (1938). З 1939 сакратар, з вер. 1940 1-ы сакратар Пінскага гаркома ЛКСМБ. З ліп. 1941 сакратар *Пінскага падпольнага абкома ЛКСМБ* і *Пінскага падпольнага гаркома ЛКСМБ*. Загінуў у баі. Пахаваны ў в. Малоткавічы Пінскага р-на ў брацкай магіле сав. воінаў і партызан. Яго імем названа вуліца ў Пінску.

**БЯРНА́ЦКІ** Дзмітрый Васілевіч (24.7. 1912, г. п. Стрэшын Жлобінскага р-на — 23.1.1945), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1942. Скончыў Арлоўскае пяхотнае вучылішча (1942). З ліп. 1942 на Сталінградскім, Данскім, Сцяпным, 2-м і 1-м Укр. франтах. Ад'ютант старшы батальёна капітан Б. вызначыўся ў ноч на 21.1.1945: на чале групы байцоў фарсіраваў Одэр на ПдУ ад г. Брэслаў, выбіў праціўніка з траншэй, адбіў 5 варожых контратак. Загінуў у баі.

**БЯРО́ЗА,** горад, цэнтр Бярозаўскага р-на, на р. Ясельда. За 100 км на ПнУ ад Брэста, 6 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская на лініі Брэст — Мінск, на аўтадарозе Брэст — Мінск. 5 тыс. жы-

хароў у 1939. У першыя дні вайны на рубяжы р. Ясельда ў раёне Б. жорсткія абарончыя баі вялі сав. воіны са складу 205-й матарызаванай дывізіі, 14-га механізаванага і 28-га стралк. карпусоў 4-й арміі супраць намнога большых сіл праціўніка. 24—25.6.1941 сав. лётчыкі нанеслі ўдар па наземных войсках праціўніка, збілі больш за 10 самалётаў. 23.6.1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў створаным імі лагеры смерці загубілі 7 тыс. чал. На чыг. ст. Бяроза-Картузская дзейнічала падп. камсам. арг-цыя (гл. *Блудзенская камсамольска-маладзёжнае падполле*), у раёне з чэрв. 1942— Бярозаўскі антыфаш. к-т. У Б. і раёне дзейнічалі Бярозаўскія падп. райкомы КП(б)Б (снеж. 1943—12.7.1944) і ЛКСМБ (1.9. 1943—12.7.1944), партыз. брыгады імя Дзяржынскага, імя Панамарэнкі, імя Свярдлова, «Савецкая Беларусь», асобныя партыз. атрады 345-ы, 347-ы, імя Шчорса, імя Будзённага, імя Варашылава, імя Катоўскага, «Сцяг» (гл. адпаведныя арт.), выдавалася падп. газ. *«Пламя»*. Вызвалена 15.7. 1944 воінамі 48-й гвардз. стралк. дывізіі (ген.-маёр Г. М. Корчыкаў) 20-га стралковага корпуса 28-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе наступлення на брэсцкім напрамку. У Б. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму, на якіх пастаўлены помнікі; помнік сав. лётчыкам. Працуе *Бярозаўскі гісторыка-рэвалюцыйны музей*. *В. В. Гетаў.*

**БЯРÓЗАЎСКІ ГІСТÓРЫКА-РЭВАЛЮЦЫЙНЫ МУЗÉЙ.** Адкрыты 3.11.1965. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, мае каля 600 экспанатаў, пл. 33 м². Матэрыялы пра абарончыя баі 130-га скорасцнага бамбардзіровачнага авіяпалка 24—25.6.1941 у раёне г. Бярозы, разгортванне падполля і партыз. руху ў раёне: карты-схемы размяшчэння партыз. брыгад, атрадаў, Брэсцкага падп. абкома КП(б)Б, абл. антыфаш. к-та і баявых дзеянняў партыз. брыгад на тэр. Бярозаўскага р-на, дыярама і карта-схема *Здзітаўскай абароны 1944*, мед. інструменты партыз. урачоў, партыз. зброя, лістоўкі, падп. газеты *«Заря»*, *«Пламя»*, *«За Родину»* і інш., фатаграфіі, дакументы, асабістыя рэчы, зброя арганізатараў, кіраўнікоў і актыўных удзельнікаў Брэсцкага абл. і Бярозаўскага антыфаш. к-таў (М. Е. *Крыштафовіча*, І. П. Урбановіча, М. В. Завадзіча і інш.), *Блудзенскага камсамольска-маладзёжнага падполля*, фатаграфіі настаўнікаў і вучняў лясных школ. У музеі дакументы і фатаграфіі злачынстваў ням.-фаш. захопнікаў у Бярозе і месцы масавага знішчэння людзей *Броннай Гары*. Матэрыялы пра вызваленне горада і раёна ад гітлераўцаў: карта-схема вызвалення Бярозы, фатаграфіі, дакументы, асабістыя рэчы воінаў-вызваліцеляў, у т. л. Героя Сав. Саюза А. А. Антонава, і інш. *Г. С. Пуцыковіч.*

**БЯРЭ́ЗІНСКАЯ ВАЕ́ННА-АПЕРАТЫ́ЎНАЯ ГРУ́ПА,** Бярэзінская ВАГ, Ваенна-аператыўная група пры Бярэзінскім падпольным райкоме КП(б)Б, партызанскае злучэнне на акупіраванай тэр. Бярэзінскага, Клічаўскага, Бялыніцкага р-наў; таксама назва органа кіраўніцтва гэтым злучэннем. Уваходзіла ў *Магілёўскае партызанскае злучэнне.*

Створана ў ліп. 1943 у Бярэзінскім р-не ў адпаведнасці з пастановай Магілёўскага падп. абкома КП(б)Б і загадам Магілёўскай (абл.) ВАГ на базе партыз. атрадаў, якія раней уваходзілі ў склад *партызанскай брыгады 3-й Бярэзінскай:* 120-га, 130, 340, 345-га (з вер. 1943 атрад 345-ы ў Брэсцкім партыз. злучэнні). У кастр. 1943 створаны партыз. атрад 346-ы. Кіраўніцтва ВАГ: сакратары падп. райкома КП(б)Б І. П. *Сакалоўскі* (ліп. 1943 — кастр. 1944), К. А. Баранаў (крас.— ліп. 1944), камандзіры С. А. *Яроцкі* (ліп.— жн. 1943), Ц. К. *Крук* (жн. 1943 — ліп. 1944), нач. штаба Г. І. Георгіеўскі (ліп.— жн. 1943), К. А. Арцюшын (вер. 1943 — ліп. 1944). 2.7. 1944 ВАГ (1718 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй.

**БЯСПО́ЯСАЎ** Яўлампій Мікалаевіч (15.3.1908, в Анфімаўская Краснаборскага р-на Архангельскай вобл.— 14.3.1957), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай і Пінскай абл. Чл. КПСС з 1932. З 1930 у Чырв. Арміі. У партызанах з ліст. 1941: камандзір групы, атрада, нач. штаба атрада, у крас.— маі 1943 камандзір 1-й Клічаўскай партыз. брыгады, у жн. 1943 — ліп. 1944 — *партызанскага палка 208-га імя І. В. Сталіна.* Да 1950 на адм.-гасп. рабоце.



**«В БОЙ ЗА РО́ДИНУ»,** назва № 1—12 за 6.11.1942—5.5.1943 газ. *«Бальшавіцкі сцяг»*, органа Рудзенскага падп. РК КП(б)Б.

**ВАВІЛА́Ў** Максім Андрэевіч (9.8.1903, Полацк — 11.7.1960), ген.-лейт. (1955). Чл. КПСС з 1927. У Чырв. Арміі з 1924. Скончыў Аб'яднаную бел. ваен. школу імя ЦВК БССР (1927), ваен. акадэміі імя Фрунзе (1936), Генштаба (1948). Удзельнік баёў каля воз. Хасан у 1938. У 1942—44 нач. штаба арміі Далёкаўсх. фронту. З 1944 у Генштабе Сав. Арміі. З 1954 нач. штаба Забайкальскай ваен. акругі, у 1956—59 у ваеннанавучальных установах.

**ВАЕ́ННА-АПЕРАТЫ́ЎНЫЯ ГРУ́ПЫ (ВАГ),** партыз. злучэнні на акупіраванай тэр. Магілёўскай вобл., таксама назва органаў кіраўніцтва гэтымі злучэннямі. Ядналі партыз. палкі, брыгады, асобныя атрады.

У крас. 1943 пры Магілёўскім падп. абкоме КП(б)Б для аператыўнага кіраўніцтва партыз. рухам на тэр. вобласці была створана Магілёўская абл. ВАГ. Адначасова створана *Магілёўскае партызанскае злучэнне* (увайшлі партыз. брыгады і атрады, што дзейнічалі на тэр. вобласці), якое таксама называлася Магілёўская ВАГ. У ліп.-жн. 1943 Магілёўскі падп. абком КП(б)Б стварыў раённыя ВАГ пры Асіповіцкім, Быхаўскім, Бялыніцкім, Бярэзінскім, Кіраўскім, Клічаўскім, Круглянскім, Магілёўскім, Шклоўскім падп. райкомах КП(б)Б (гл. адпаведныя арт., напр., *Асіповіцкая ваенна-аператыўная група*), якія ўвайшлі ў Магілёўскае партыз. злучэнне. У мэтах паляпшэння парт. кіраўніцтва партыз. рухам у аддаленых раёнах вобласці, што размешчаны на У ад Дняпра, кіраўніцтва якімі ўскладнялася з-за недастатковай сувязі, Магілёўскі падп. абком КП(б)Б стварыў у крас. 1943 Паўд.-Усх. і Паўн.-Усх. зоны, кіраўніцтва імі ажыццяўлялі ўпаўнаважаныя абкома КП(б)Б Я. М. Нікіфараў і М. В. Шпак. У сак. 1944 у Рагачоўскую ВАГ пераўтворана 8-я Рагачоўская партыз. брыгада, якая перадыслацыравалася ў Магілёўскую вобл. Расфарміроўваліся па меры вызвалення тэр. вобласці часцямі Чырв. Арміі. *А. Л. Манаенкаў.*

**ВАЕ́ННЫ САВЕ́Т,** калегіяльны орган ваен. і паліт. кіраўніцтва, абмеркавання, а часам і вырашэння прынцыповых пытанняў ваен. будаўніцтва, арганізацыі ваен. дзеянняў, упраўлення, падрыхтоўкі і забеспячэння войск. Перад Вял. Айч. вайной ва Узброеных Сілах СССР былі Галоўны В. с. Чырв. Арміі і Галоўны В. с. Ваенна-Марскога Флоту, а таксама В. с. ў ваен. акругах, арміях, флатах і флатыліях. У пач. вайны былі ўведзены В. с. франтоў на чале з камандуючымі войскамі, створаны В. с. Ваенна-Паветр. Сіл, Войск проціпаветр. абароны краіны, у 1942 — бранятанк. і механізаваных войск, у 1943 — пры камандуючым артылерыяй Чырв. Арміі і В. с. Гал. ўпраўлення фарміраванняў і ўкамплектавання Чырв. Арміі. У склад В. с. ўваходзілі: камандуючы (старшыня В. с.), член В. с.— палітработнік, сакратар ЦК кампартыі саюзнай рэспублікі, сакратар абкома партыі — у залежнасці ад месца размяшчэння ўпраўлення фронту, флоту, акругі і г. д., нач. штаба, 1-ы нам. камандуючага — чл. В. с. па тыле і інш. Кандыдаты на пасаду членаў В. с. разглядаліся ЦК ВКП(б), і па яго рэкамендацыі Дзярж. к-т абароны рабіў назначэнні. В. с. адказвалі перад ЦК ВКП(б) і Сав. урадам за палітыка-маральны стан, баявую гатоўнасць і баявыя дзеянні прыдадзеных ім войск. У мясцовасцях, абвешчаных на ваен. становішчы, В. с. перадаваліся функцыі органаў дзярж. улады. В. с. ўдзельнічалі ў распрацоўцы планаў аперацый і іх ажыццяўленні,

у матэрыяльна-тэхн. забеспячэнні войск, садзейнічалі развіццю партыз. руху ў тыле ворага, наладжвалі ўзаемадзеянне войск Чырв. Арміі з партыз. атрадамі. Напрыклад, пры В. с. Зах. фронту ў 1942 створаны аператыўны орган — *Заходні штаб партызанскага руху*. Па меры набліжэння да тэр. Беларусі лініі фронту ЦК КП(б)Б і БШПР арганізавалі і прыкамандзіравалі спец. аператыўныя групы да В. с. 1-га, 2, 3-га Бел. франтоў, пры В. с. 1-га Прыбалт. фронту было прадстаўніцтва БШПР. В. с. франтоў і армій, якія ўдзельнічалі ў *Беларускай аперацыі 1944*, прымалі спец. рашэнні аб мерах дапамогі насельніцтву Беларусі ў аднаўленні нар. гаспадаркі.

Калгасам і саўгасам бясплатна В. с. перадавалі тысячы пудоў збожжа, сотні трактароў, аўтамашын, бензавозаў, коней, павозак. Стварылі каманды з воінаў для рамонту сельгасмашын, будаўніцтва бальніц, мастоў, жылых дамоў, памяшканняў пад дзіцячыя ўстановы, забяспечвалі дзяцей усім неабходным. Вылучылі некалькі соцень урачоў, медыкаменты, харчы і інш. для барацьбы з інфекцыйнымі хваробамі, якімі гітлераўцы наўмысна заражалі зняволеных лагераў смерці на тэр. Беларусі. У сувязі з перанясеннем ваен. дзеянняў за межы СССР В. с. разгарнулі ў войсках работу па інтэрнац. выхаванні воінаў і растлумачэнні вызваленчай місіі Сав. Узброеных Сіл у краінах Еўропы, аказвалі дапамогу жыхарам вызваленых краін, стварылі ў іх органы кіравання і кантралявалі іх работу, ажыццяўлялі рэпатрыяцыю сав. і замежных грамадзян, што знаходзіліся ў фаш. няволі. *А. С. Харэбін.*

**ВАЕ́ННЫЯ ЗЛАЧЫ́НЦЫ,** арганізатары, падбухторшчыкі, кіраўнікі, выканаўцы і саўдзельнікі ваен. злачынстваў, злачынстваў супраць міру і чалавецтва, законаў і звычаяў вайны. Нормы пра адказнасць В. з. замацаваны ў шэрагу міжнар. дагавораў і пагадненняў (Гаагская 1907, Жэнеўская 1929 канвенцыі), а таксама ў нац. заканадаўстве розных краін (у СССР — Указ Прэзідыума ВС СССР ад 19.4. 1943). Па ініцыятыве СССР 30.10. 1943 прынята Маскоўская дэкларацыя аб адказнасці гітлераўцаў за ўчыненыя зверствы, падпісаная СССР, ЗША і Вялікабрытаніяй. Дэкларацыя замацавала палажэнне аб тым, што герм. салдаты, афіцэры і члены нацысцкай партыі, адказныя за зверствы, забойствы і інш. злачынствы, учыненыя на тэр. часова акупіраваных імі краін, будуць адасланы ў гэтыя краіны для суда і пакарання за іх злачынствы. Гэтымі дакументамі была створана юрыдычная база пакарання В. з. У СССР для выяўлення і расследавання злачынстваў ням.-фаш. захопнікаў і іх памагатых, вызначэння нанесеных імі страт, устанаўлення асобы В. з. з мэтай аддачы іх пад суд 2.11.1942 створана *Надзвычайная дзяржаўная камісія*. Пытанне аб адказнасці галоўных В. з., злачынствы якіх не звязаны з пэўным геаграфічным месцам, было канчаткова вырашана Лонданскім пагадненнем СССР, ЗША, Вялікабрытаніі і часовага ўрада Францыі ад 8.8.1945 (да яго далучыліся яшчэ 19 дзяржаў). Пагадненне прадугледжвала, што гал. В. з. будуць пакараны сумесным рашэннем урада саюзнікаў, для чаго было вырашана заснаваць Міжнар. ваен. трыбунал (статут яго зацверджаны 20.12.1945). На падставе гэтых дакументаў праведзены *Нюрнбергскі працэс* над гал. В. з. фаш. Германіі. У выяўленні і справядлівым пакаранні В. з. (гл. *Судовыя працэсы*) зацікаўлена і БССР, якой у гады вайны былі прынесены незлічоныя бедствы і страты. Фашысты спалілі і разбурылі на Беларусі 209 гарадоў і раённых цэнтраў, 9200 вёсак (з іх 628 спалена разам з жыхарамі), знішчылі больш за 2 млн. 200 тыс. сав. грамадзян, вывезлі ў Германію на катаржныя работы каля 380 тыс. чал. У гады вайны загінуў кожны чацвёрты жыхар Беларусі. Матэрыяльныя страты, нанесеныя рэспубліцы, склалі 75 млрд. руб. (у дзярж. цэнах 1941; гл. таксама *Акупацыйны рэжым, «Выпаленая зямля», Генацыд, Карныя аперацыі, Лагеры смерці, Населеныя пункты Беларусі, знішчаныя разам з жыхарамі ў 1941—44 нямецка-фашысцкімі захопнікамі*). Адказнасць за ўчыненыя на тэр. БССР злачынствы ляжыць на ген. камісары Беларусі В. *Кубэ* (22.9.1943 знішчаны мінскімі падпольшчыкамі), нач. СС і паліцыі на Беларусі групенфюрэры войск СС фон Готбергу, упаўнаважаным рэйхсфюрэра СС Гімлера па барацьбе з партызанамі на Беларусі обергрупенфюрэры СС Бах-Зелеўскім, камандуючым ахоўнымі войскамі і нач. тылавога раёна групы армій «Цэнтр» Шэнкендорфу і інш. На 1-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН дэлегацыя БССР прапанавала праект рэзалюцыі (прыняты 13.2.1946) аб выдачы і пакаранні В. з., перадала спіс больш як на 1200 В. з., вінаватых у злачынствах на часова акупіраванай тэр. рэспублікі. Аднак ні адзін з названых у спісе В. з. не быў выдадзены зах. бурж. дзяржавамі для прыцягнення да адказнасці там, дзе ён учыніў злачынствы. БССР адна з першых падпісала 27.1.1969 Канвенцыю аб непрымяненні тэрміну даўнасці да ваен. злачынстваў і злачынстваў супраць чалавецтва (прынята 23-й сесіяй Генеральнай Асамблеі ААН 26.11.1968). У Канвенцыі адзначаецца, што пакаранне В. з.— важны фактар папярэджання ваен. злачынстваў, умацавання даверу і супрацоўніцтва паміж народамі і забеспячэння міжнар. міру. У СССР, Бельгіі, Францыі, ГДР, Польшчы і інш. краінах прыняты спец. законы аб непрымяненні тэрміну даўнасці да нацысцкіх В. з. Не можа быць дадзена В. з. і права прытулку (Дэкларацыя ААН аб праве прытулку 1967).

У пасляваен. гады, парушаючы нормы міжнар. права, урады некаторых бурж. дзяржаў (перш за ўсё ЗША, ФРГ, Канады) вышукваюць розныя прычыны, каб укрыць В. з., перашкаджаюць выдачы іх краінам, дзе яны ўчынілі злачынствы, дамагаюцца вызвалення з турмаў асуджаных В. з. Рэалізацыя прынцыпу непазбежнасці пакарання В. з. служыць папярэджванню разбойніцкіх дзеянняў і злачынстваў імперыялістаў у розных краінах свету, прадухіленню развязвання новай сусв. вайны. *І. І. Пацяружа.*

**ВАЙЗУ́ЛІН** Ікрам Халімавіч 14.12. 1919, в. Туктар Сабінскага р-на Татарскай АССР — 23.7.1985), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1943. З чэрв. 1941 у Чырв. Арміі. У партызанах з чэрв. 1942: камандзір аддзялення, палітрук узвода, з лют. 1943 нам. камандзіра брыгады, у жн. 1943 — чэрв. 1944 камісар *партызанскай брыгады 1-й Смаленскай*. У 1944—79 на адм.-гасп. рабоце.

**ВА́ЙНРУБ** Мацвей Рыгоравіч (н. 2.5.1910, Барысаў), Герой Сав. Саюза (1945), ген.-лейт. танк. войск (1968). Чл. КПСС з 1931. У Чырв. Арміі з 1929. Скончыў ваен. акадэміі імя Фрунзе (1941), Генштаба (1951). З чэрв. 1941 на Зах., Паўд.-Зах., Сталінградскім, 3-м Укр., 1-м Бел. франтах: нач. разведкі дывізіі, камандзір танк. палка, камандуючы бранятанк. і механізаванымі войскамі — нам. камандуючага войскамі 62-й (з 1943 — 8-я гвардз.) арміі. Вызначыўся ў студз. 1945 у час прарыву ўмацаванай паласы абароны ворага на левым беразе Віслы на Пд ад Варшавы. Да 1970 у Сав. Арміі. Жыве і працуе ў Кіеве. Ганаровы грамадзянін г. Познань (ПНР).

**ВА́ЙНРУБ** Яўсей Рыгоравіч (н. 15.5. 1909, Барысаў), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1937. У Чырвонай Арміі з 1931. Скончыў Маскоўскі індустрыяльны ін-т (1931), Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1941). На фронце з 1941, удзельнік абароны Беларусі, баёў пад Масквой, Тулай, Арлом, вызвалення Беларусі. Са снеж. 1944 падпалк. В. камандаваў танк. брыгадай, якая вызначылася ў Вісла-Одэрскай аперацыі. За 2 месяцы баёў брыгада вызваліла больш за 400 населеных пунктаў Польшчы, адна з першых уварвалася ў Берлін. Да 1955 у Сав. Арміі, палкоўнік. Пазней працаваў на Мінскім аўтазаводзе, у Міністэрстве лясной прамысловасці БССР.

**ВАЙСТРО́Ў** Дзмітрый Фёдаравіч (н. 7.11.1906, в. Добрая Горацкага р-на), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1926. З 1930 на парт. і сав. рабоце. У пач. Айч. вайны пакінуты ў тыле ворага. У партызанах з кастр. 1941, з лют. 1942 камандзір групы, атрада, у вер.— кастр. 1942 в. а. камандзіра брыгады, у кастр. 1942 — сак. 1943 камандзір гал. партыз. атрада (гл. *Партызанская брыгада «Звязда»*), з

жн. 1943 чл. Мсціслаўскага падп. РК КП(б)Б, у студз.— чэрв. 1944 камісар *партызанскай брыгады 61-й.* У 1944—57 на парт., сав. і гасп. рабоце. Аўтар кн. «У горацкім рэдкалессі» (1986).

**ВАЙЦАХО́ВІЧ** Сяргей Рыгоравіч (20.3. 1903, в. Сярагі Слуцкага р-на — 3.9.1977), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Пінскай вобл. Чл. КПСС з 1926. Скончыў Камуніст. ун-т Беларусі (1932). З 1933 на парт. рабоце, з 1938 ін-



М. Р. Вайнруб. Я. Р. Вайнруб. С. Р. Вайцаховіч. І. Ф. Ваксман. А. В. Вакульскі. Дз. Д. Валенцік.

структар ЦК КП(б)Б, з крас. 1941 сакратар Пінскага абкома КП(б)Б. З 23.4.1943 да ліп. 1944 2-і сакратар *Пінскага падпольнага абкома КП(б)Б.* У 1944—47 сакратар Пінскага абкома КП(б)Б. Яго імем названа вуліца ў Пінску.

**ВАЙЦЯНКО́Ў** Рыгор Максімавіч (1.12. 1900, в. Лужок Кармянскага р-на — 9.5.1979), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1925. Скончыў Вышэйшую камуніст. с.-г. школу Беларусі (1935). У 1919—24 у Чырв. Арміі, удзельнік баёў супраць войск Юдзеніча. З 1935 на парт. рабоце, у 1941 1-ы сакратар Асіповіцкага РК КП(б)Б. З лют. 1942 камандзір дыверсійнай групы. У крас. 1943— ліп. 1944 1-ы сакратар Асіповіцкага падп. РК КП(б)Б, адначасова з ліп. 1943 кіраўнік *Асіповіцкай ваенна-аператыўнай групы.* У 1944—58 на парт. і журналісцкай рабоце.

**ВАЙЦЯХО́ЎСКІ** Мікалай Калістратавіч (5.3.1917, Ленінград — 9.2.1978), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай і Беластоцкай абл. Скончыў Ленінградскі горны ін-т (1940). З кастр. 1941 у тыле ворага, у чэрв.— жн. 1942 нач. штаба партыз. брыгады Багушэўскай, з сак. 1943 камандзір атрада, у ліст. 1943— жн. 1944— *партызанскай брыгады імя Кастуся Каліноўскага.* У 1944—72 на адм.-гасп. рабоце.

**ВАКСМАН** Ісак Фёдаравіч (25.7.1922, г. п. Краснаполле —19.12.1943), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1943. На фронце з кастр. 1942. Удзельнік баёў пад Сталінградам, на Доне, Северскім Данцы, Дняпры. 26.11.1943 арт. батарэя, якой камандаваў ст. лейтэнант В., пад агнём ворага пераправілася цераз Дняпро каля г. Запарожжа, у баях за плацдарм знішчыла 15 варожых агнявых кропак, танк, 2 аўтамашыны, адбіла 10 контратак. Загінуў у баі. Пахаваны ў с. Канеўскае Запарожскага р-на. Яго імем названы вуліца ў Краснаполлі, школа ў в. Беразякі 1-я Краснапольскага р-на; на доме, дзе ён жыў, мемар. дошка.

**ВАКУ́ЛЬСКІ** Аляксандр Васілевіч (н. 28.8.1922, в. Калтыманава Іглінскага р-на Башк. АССР), Герой Сав. Саюза (1945). Беларус. Чл. КПСС з 1945. Скончыў Тамбоўскую ваенна-авіяц. школу (1942). На фронце з ліст. 1943, камандзір эскадрыллі штурмавога авіяпалка. Удзельнік баёў на Віцебска-Полацкім напрамку, вызвалення Літвы і Латвіі, разгрому кёнігсбергскай варожай групоўкі. Капітан В. зрабіў 111 баявых вылетаў, удзельнічаў у 17 паветр. баях, збіў 3 самалёты, знішчыў 55 аўтамашын, 9 гармат, 5 танкаў, 5 арт. і мінамётных батарэй, 5 складоў, заглушыў агонь 12 батарэй зенітнай артылерыі ворага. У 1946—62 у грамадз. авіяцыі.

**ВАЛЕ́НЦІК** Дзмітрый Данілавіч (23.2. 1907, в. Райкава Полацкага р-на — 30.3.1969), Герой Сав. Саюза (1940). Чл. КПСС з 1930. У Чырв. Арміі з 1929. Скончыў Арэнбургскую ваенна-авіяцыйную школу (1933). Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. Эскадрылля пад камандаваннем капітана В. тройчы лятала ў глыбокі тыл ворага на знішчэнне яго аператыўнастратэгічнай базы каля Рованіемі, збіла ў паветр. баях 5 варожых знішчальнікаў. У Айч. вайну на Паўд.-Зах., Сталінградскім, Паўд., 4-м Укр. і 3-м Бел. франтах — камандзір палка, зрабіў 115 баявых вылетаў. Да 1955 у Сав. Арміі, палкоўнік. Яго імем названа вуліца ў г. Рэчыца.

**ВАЛЕНЦІНО́ЎСКІ БОЙ 1942,** бой партыз. атрадаў «Мсцівец» і «Барацьба» (гл. ў арт. *Партызанская брыгада «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага*) супраць карнікаў каля былой в. Валенцінова Лагойскага р-на ў ліп. 1942. У лесе каля вёскі размяшчалася пляцоўка для прыёму партызанамі грузаў з Вялікай зямлі. Даведаўшыся пра гэта, гітлераўцы вырашылі ліквідаваць яе. У ліп. ў вёску прыбыў карны атрад (да 700 чал.) і 2 калонамі пачаў акружаць пляцоўку. Партызаны (больш за 280 чал.) занялі абарону па краях пляцоўкі, падпусцілі ворага на блізкую адлегласць і нечакана адкрылі агонь. Карнікі некалькі разоў кідаліся ў атакі, але партызаны паспяхова адбівалі іх. На працягу трохгадзіннага бою гітлераўцы былі разбіты. Увечары, захапіўшы вял. трафеі, партызаны пайшлі ў Крайскія лясы. *Р. А. Чарнаглазава.*

**ВАЛОЖЫН** Павел Фаміч (н. 7.1.1915, в. Нізок Уздзенскага р-на), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсамольска-маладзёжнага падполля і партыз. руху ў Мінскай і Магілёўскай абл. Кандыдат эканамічных навук (1971). Чл. КПСС з 1940. Скончыў Віцебскі ветэрынарны ін-т (1936), ВПШ пры ЦК КПСС (1952). З 1940 1-ы сакратар Магілёўскага гаркома ЛКСМБ, удзельнік *Магілёва абароны 1941.* З ліп. 1941 у тыле ворага, займаўся стварэннем камсамольскага падполля і партыз. атрадаў у Мінскай і Магілёўскай абл. З 1.3.1943 да 28.6.1944 сакратар *Магілёўскага падпольнага абкома ЛКСМБ,* упаўнаважаны ЦК ЛКСМБ па зоне Асіповічы — Бабруйск, адначасова ў сак.— маі 1943 сакратар *Бабруйскага падпольнага міжрайкома ЛКСМБ.* З 1944 на сав. і гасп. рабоце, з 1962 нам. міністра сельскай гаспадаркі БССР. У 1969—85 на навуковай рабоце.

**ВАЛО́ЖЫН,** горад, цэнтр Валожынскага р-на, на р. Валожынка. За 75 км на ПнЗ ад Мінска, 17 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна — Ліда, аўтамагістраллю звязаны з Мінскам і Вільнюсам, аўтадарогамі — з Маладзечна, Ашмянамі, Лідай. У 1939 6,8 тыс. жыхароў. У пач. вайны каля В. жорсткія баі з намнога большымі сіламі праціўніка вялі воіны 24-й Самара-Ульянаўскай жалезнай стралк. дывізіі (ген.-маёр К. М. Галіцкі). 25.6.1941 акупіраваны ням.-

фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі ў В. і раёне 2000 чал. У горадзе і раёне дзейнічалі Валожынскія падп. райкомы КП(б)Б (8.6.1943—5.7.1944) і ЛКСМБ (7.11.1943—6.7.1944), партыз. брыгады «За Савецкую Беларусь», імя Сталіна, імя Чкалава, імя Чапаева, асобныя атрады П. А. Алыбіна, А. Свентаржэцкага (гл. адпаведныя арт.), выдавалася падп. газ. *«Искра»*. Вызвалены 5.7.1944 воінамі 3-й (падпалк. К. А. Грыцэнка) і 18-й (падпалк. В. І. Есіпенка) гвардз. танк. брыгад, 2-й гвардз. мотастралк. брыгады (палк. Дз. Н. Далганаў) 3-га гвардз. танк. корпуса 5-й гвардз. танк. арміі 3-га Бел. фронту ў ходзе *Вільнюскай аперацыі 1944*. У В. 2 брацкія магілы сав. воінаў і партызан і 3 магілы ахвяр фашызму, на якіх пастаўлены помнікі; помнік Вызвалення, мемар. дошка супрацоўнікам міліцыі, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. *В. В. Гетай.*

**ВАЛЫНЕ́Ц** Андрэй Іванавіч (19.1.1904, в. Жаўткі Вілейскага р-на —30.3. 1965), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў падп. і партыз. барацьбы супраць акупантаў у Вілейскай вобл., Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1934. Удзельнік рэв. руху ў Зах. Беларусі. У ліп. 1941 адзін з арганізатараў *Вілейска-Куранецкага партыйна-камсамольскага падполля.* Вясной 1942 стварыў і ўзначаліў партыз. групу, якая пераўтворана ў атрад «За Савецкую Беларусь», у кастр. 1943— ліп. 1944 камандзір атрада (гл. *Партызанская брыгада «За Савецкую Беларусь»*), адначасова з крас. 1944 чл. *Вілейскага падпольнага гаркома КП(б)Б.* Пад яго кіраўніцтвам у Куранецкім, Смаргонскім, Маладзечанскім р-нах была створана сетка антыфаш. падп. арг-цый. Пасля вайны на сав. рабоце ў Вілейцы і Маладзечне. Яго імем названы вуліцы ў Вілейцы і Маладзечне; у Маладзечне пастаўлены помнік, устаноўлена мемар. дошка.

**ВАЛЬВАЦЕ́НКА** Іван Кірылавіч (н. 15.4. 1915, в. Мазалава Мсціслаўскага р-на), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1944. У Чырвонай Арміі з 1937. Скончыў танк. школу (1941). Удзельнік вызвалення Зах. Украіны ў 1939, сав.-фінляндскай вайны 1939—40. У Айч. вайну з чэрв. 1941 на Паўд.-Зах., Волхаўскім, Варонежскім, 1-м Украінскім франтах. Удзельнік абароны Львова, Масквы, Ленінграда, Курскай бітвы, вызвалення Украіны, Берлінскай і Пражскай аперацый. Вызначыўся ў баях каля Кіева. 5—6.11.1943 танк. рота на чале з ст. лейтэнантам В. прарвала моцную абарону ворага і перарэзала шашу Кіеў — Жытомір. Паранены В. з экіпажам у падбітым танку некалькі гадзін вёў бой да падыходу падмацавання; экіпаж знішчыў 2 варожыя танкі, 9 цяжкіх гармат, 17 аўтамашын. Да 1946 у Чырв. Арміі, маёр. Жыве ў Львове.


А. І. Валынец. І. К. Вальваценка.


У. Р. Ванееў. П. Ф. Вансецкі.


В. У. Ванцян. А. Н. Варанцоў.

**ВАНЕ́ЕЎ** Уладзімір Рыгоравіч (6.8. 1896, в. Шыпіроўшчына Кацельніцкага р-на Кіраўскай вобл.—12.10.1941), парт. і дзярж. дзеяч БССР, адзін з арганізатараў парт. падполля і партыз. руху на Беларусі. Чл. КПСС з 1918. Удзельнік 1-й сусв. і грамадз. войнаў. З кастр. 1937 старшыня выканкома Мінскага гарсавета, з жн. 1938 наркам гандлю БССР, з сак. 1939 нам. старшыні СНК БССР, з сак. 1941 3-і сакратар ЦК КП(б)Б. З першых дзён Айч. вайны вёў вял. работу па мабілізацыі ваеннаабавязаных у Чырв. Армію, перабудове ўсяго жыцця на ваен. лад, арганізоўваў эвакуацыю ў сав. тыл насельніцтва, прамысловых прадпрыемстваў, устаноў, дакументаў, матэрыяльных каштоўнасцей, прымаў удзел у арг-цыі парт. падполля, мабілізацыі сіл для разгортвання партыз. барацьбы на акупіраванай тэр. Беларусі. З 23.7. 1941 брыгадны камісар, чл. ваен. савета 19-й арміі Зах. фронту. Удзельнічаў у абароне Віцебска, Смаленска, Масквы. Загінуў у баі. Канд. у чл. ЦК КП(б)Б з 1938, чл. ЦК КП(б)Б з 1940, чл. Бюро ЦК КП(б)Б з сак. 1941. Чл. ЦВК СССР у 1927—29. Дэп. ВС СССР з 1937. Яго імем названы вуліца і плошча ў Мінску.

**ВАНКЕ́ВІЧ** Пётр Паўлавіч (19.8.1903, в. Баравіно Бярэзінскага р-на — 4.11.1972), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1928. З 1925 у Чырв. Арміі. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. Удзельнік абароны Магілёва ў ліп. 1941. З сак. 1942 у партызанах: з крас. камісар атрада, у ліп. 1943— чэрв. 1944— *партызанскай брыгады 2-й Мінскай*, адначасова чл. Рудзенскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—58 на парт. і сав. рабоце.

**ВАНСЕЦКІ** Павел Фёдаравіч (1915, Краснадар —27.3.1944), Герой Сав. Саюза (1945). Беларус. З 1938 у ВМФ, служыў на лідэры «Ташкент» Чарнаморскага флоту. З мая 1942 у брыгадзе марской пяхоты. Удзельнік дэсантных аперацый у Новарасійску, Марыупалі, Таганрогу, Бярдзянску. Старшына 2-й стацці В. вызначыўся ў час дэсантнай аперацыі ў г. Мікалаеў. У ноч на 26.3.1944 атрад дэсантнікаў з 68 чал., у складзе якога быў В., па Паўд. Бугу зайшоў у тыл ворагу, высадзіўся ў порце, двое сутак вёў няроўны бой, адбіў 18 контратак, знішчыў каля 700 гітлераўцаў. У Мікалаеве ў гонар дэсантнікаў — Герояў Сав. Саюза адкрыты Нар. музей баявой славы, пастаўлены помнік, названа вуліца.

**ВАНЦЯ́Н** Вачаган Унанавіч (14.5.1913, с. Зак Ахалкалакскага р-на Грузінскай ССР —1.8.1944), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1943. На фронце з чэрв. 1941. Камандзір кулямётнага разліку сяржант В. вызначыўся 23.6.1944 у час прарыву варожай абароны каля г. п. Шуміліна: знішчыў 3 кулямётныя кропкі, адбіў 2 контратакі праціўніка, падбіў танк. 1.8.1944 у баі каля р. Мемеле з яго ўдзелам адбіта 5 варожых контратак, у час іпостай паранены В. знішчыў процітанк. гранатай танк і загінуў сам. Пахаваны ў в. Шыланы Біржайскага р-на Літоўскай ССР.

**ВАРАБ'ЕЎ** Іван Аляксеевіч (н. 26.8. 1921, в. Гарбачова Адоеўскага р-на Тульскай вобл.), двойчы Герой Сав. Саюза (1944, 1945). Чл. КПСС з 1944. Скончыў Тамбоўскую ваен. авіяцыйную школу пілотаў (1941), Ваенна-паветр. акадэмію (1952). На фронце з жн. 1942. Камандзір звяна штурмавога авіяпалка, зрабіў каля

400 баявых вылетаў. Удзельнік Сталінградскай бітвы, вызвалення Украіны, Беларусі (Орша, Віцебск, Барысаў, Мінск, Баранавічы), Літвы, баёў ва Усх. Прусіі. Пасля вайны да 1973 на камандных пасадах у ВПС, на выкладчыцкай рабоце, палкоўнік.

**ВАРАБ'ЕЎ** Пётр Ягоравіч (4.7.1908, в. Танькіна Кукморскага р-на Татарскай АССР —25.9.1984), Герой Сав. Саюза (1945). З жн. 1941 на Зах., 2-м Бел. франтах. Камандзір стралк. аддзялення сяржант В. вызначыўся пры вызваленні Магілёўскай вобл.: 24.6.1944 аддзяленне пад агнём праціўніка пераправілася цераз р. Проня на Пн ад г. Чавусы, уварвалася ў варожыя траншэі, знішчыла 8 гітлераўцаў і станковы кулямёт; 26 чэрв. выйшла да р. Бася, знішчыла ахову моста і прадухіліла яго ўзрыў, што садзейнічала пераправе ўсяго батальёна; 27 чэрв. фарсіравала Дняпро на Пд ад Магілёва і знішчыла групу гітлераўцаў, якія вялі агонь па падраздзяленнях палка на пераправе. Пасля вайны працаваў старшынёй калгаса на радзіме.

**ВАРАБ'ЕЎ** Рыгор Цімафеевіч (28.11. 1910, с. Малы Мелік Калінінскага р-на Саратаўскай вобл.—29.10.1980), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1942. З чэрв. 1941 на Зах. фронце. З мая 1942 камандзір партыз. роты, з мая 1943 пам. кіраўніка Лідскага падп. міжрайпартцэнтра, у студз.— ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады імя К. К. Ракасоўскага,* адначасова чл. Слонімскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—75 на сав. і гаспадарчай рабоце.

**ВАРАНЦО́Ў** Аляксандр Нічыпаравіч (22.9.1907, в. Панькаўская Буда Касцюковіцкага р-на —23.1.1973), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1945. На фронце з ліп. 1941. Удзельнік абароны Масквы, наводчык станковага кулямёта. Зімою 1942—43 удзельнічаў у 42-дзённым рэйдзе па тылах ворага ў раёне Ржэў — Сычоўка — Нялідава. У вер. 1943 у складзе войск Бранскага фронту адзін з першых фарсіраваў Дзясну і на захопленым плацдарме адбіў 2 контратакі праціўніка. Вызначыўся і ў баях на тэр. Германіі, дзе нанёс ворагу вял. страты. Пасля вайны старшыня калгаса, ляснік. Яго імем названа вуліца ў г. Касцюковічы.

**ВАРАНЧУ́К** Андрэй Якаўлевіч (н. 15.6. 1915, в. Горваль Рэчыцкага р-на), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Рэчыцкі педтэхнікум (1932), арт. школу ў Куйбышаве (1939), Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1947), Кіеўскі ун-т (1965). Удзельнік баёў на р. Халхін-Гол у 1939. На фронце з 1941, камандзір батарэі, дывізіёна, нач. артылерыі стралк. палка. Удзельнік Курскай бітвы, вызвалення Украіны. Вызначыўся 15—17. 10.1943 пры фарсіраванні Дняпра каля Лоева. Батарэя, якой камандаваў лейтэнант В., знішчыла 5 варожых агнявых кропак, фарсіравала раку, на плацдарме адбіла 4 контратакі праціўніка. На Пд ад Рэчыцы батарэя адбіла контратаку 2 узмоцненых батальёнаў праціўніка, што забяспечыла паспяховае наступленне сав. войск. Да 1960 у Сав. Арміі, палкоўнік. Навуковы супрацоўнік музея Вял. Айч. вайны ў Кіеве.

**ВАРАНЯ́НСКІ** Васіль Трафімавіч (25.8. 1901, г. п. Дзіканька Палтаўскай вобл.— вер. 1943), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1927. У Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз. вайны, баёў у раёне воз. Хасан у 1938. З вер. 1941 у партызанах: камандзір групы, з лют. 1942 атрада, у вер. 1942— вер. 1943 *партызанскай брыгады «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага* (брыгадзе прысвоена імя В. пасля яго гібелі). Яго імем названы вуліцы ў Мінску і ў г. п. Плешчаніцы Лагойскага р-на.

**ВАРАПА́ЕЎ** Іван Кірылавіч (20.4.1905, в. Трубільня Краснапольскага р-на Магілёўскай вобл.—11.11.1959), ген.-маёр артылерыі (1944), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1928. У Чырв. Арміі з 1927. Скончыў Акадэм. курсы ўдасканалення камсаставу (1934), Ваен. акадэмію Генштаба (1946). Удзельнік нац.-рэв. вайны ў Іспаніі 1936—39, вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну з чэрв. 1941 на Зах., Паўд.-Зах., 3-м Укр., 1-м Бел. франтах: камандаваў арт. палком, артылерыяй дывізіі, корпуса. Удзельнік баёў пад Мінскам, на Бярэзіне ў 1941, Сталінградскай і Курскай бітваў, вызвалення Беларусі, Украіны, Польшчы, баёў на тэр. Германіі. Вызначыўся пры фарсіраванні Віслы. У жн. 1944 арт. агнём забяспечыў прыкрыццё пераправы сав. часцей, асабіста кіраваў пераправай гармат. За месяц наступальных баёў артылерыя корпуса пад яго камандаваннем знішчыла 106 варожых танкаў і самаходных гармат, 172 мінамёты і гарматы. Пасля вайны да 1950 у Сав. Арміі. Яго імем названа вуліца ў г. п. Краснаполле, школа ў в. Клясін Краснапольскага р-на.

**ВАРВАШЭ́НЯ** Іван Дзянісавіч (31.12. 1904, в. Быстрыца Капыльскага р-на —4.3.1957), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1927. Скончыў Маскоўскі ін-т інжынераў чыг. транспарту (1934). У 1939—41 заг. аддзела, сакратар па транспарту Мінскага абкома КП(б)Б. З 21.7.1941 да мая 1943 сакратар *Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б,* адначасова з жн. 1942 да крас. 1943 сакратар *Слуцкага падпольнага міжрайкома КП(б)Б,* камісар *Слуцкай зоны партызанскага злучэння.* З 1944 сакратар Мінскага абкома, з 1950 1-ы сакратар Мінскага гаркома КПБ. Канд. у чл. ЦК КПБ у 1949—52, чл. ЦК КПБ у 1952—56. Дэп. ВС БССР у 1947—57. Яго імем названа вуліца ў Мінску.

**ВАСІЛЕ́ВІЦКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала са жн. 1941 да ліст. 1943 на тэр. Васілевіцкага р-на. Кіраўнік Ц. М. Астапенка (загінуў у ліп. 1942), потым М. С. Белы. Аб'ядноўвала 5 груп (57 чал.): 2 у Васілевічах, кіраўнікі Л. П. Курганская-Сакалова, А. І. Белы; у в. Бабічы — П. А. Астапенка:, в. Навінкі — А. Ф. Фралоў; вёсках Хамічы і Гогалева — С. П. Алісейка. Трымала сувязь з партыз. атрадамі Васілевіцкім і імя Варашылава.

Падпольшчыкі вялі сярод насельніцтва прапагандысцкую работу, прымалі па радыё і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, здабывалі і перадавалі партызанам зброю, боепрыпасы, медыкаменты, вялі разведку, папярэджвалі партызан і насельніцтва аб карных аперацыях гітлераўцаў, вывелі са строю электрастанцыю



А. Я. Варанчук. І. К. Варапаеў.



Помнік на брацкай магіле падпольшчыкаў у Васілевічах.

ў Васілевічах, падпалілі мэблевую ф-ку ў в. Бабічы, падарвалі вайсковы эшалон на чыгунцы Калінкавічы — Рэчыца.

У барацьбе з ням.-фаш. акупантамі загінулі 32 падпольшчыкі: С. П. Алісейка, М. І., Ц. М. і Я. А. Астапенкі, А. І., А. М. і В. А. Белыя, А. П. Бліznец, М. Дз. Варажун, Дз. З. Гарбачоў, У. Дз. Жалезка, А. І. Жукоўская,

І. Дз. Варвашэня. А. М. Васілеўскі.



Г. М. Журонак, М. І. Капітонава (Маўчан), Л. П. Курганская-Сакалова, М. П. Лаўшук, М. Я. Лобан, І. В. і Л. В. Мілановічы, Г. Мульменка, І. Сопат, Г. Г. Сыч, Б. М. Сячко, М. К. Трафімава, М. А. і Ф. Уласенкі, К. Ц. Храменка, І. Ф. Шавяленка, І. Ц. Шаўцоў, П. П. Штурма, Я. П. Шульга, В. І. Шчэрская (Белая). У Васілевічах на брацкай магіле пастаўлены абеліск. *А. Ф. Маркава.*

**ВАСІЛЕВІЧ** Рафаіл Людвігавіч (22.11.1903, в. Шарамятаўшчына Мінскага павета —17.9.1962), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1926. З 1923 у Чырвонай Арміі. З мая 1942 у партызанах: радавы, нам. камандзіра Асобага злучэння партыз. атрадаў Баранавіцкай вобл., з крас. 1943 нам. кіраўніка *Івянецкага падпольнага міжрайпартцэнтра,* чл. штаба *Івянецкага партызанскага злучэння,* у студз.— ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады імя Г. К. Жукава.*

**ВАСІЛЕ́ВІЧ** Яфрэм Пятровіч (4.2.1901, в. Барысавічы Клімавіцкага р-на — 16.9.1965), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1929. Удзельнік баёў супраць бандаў Булак-Балаховіча ў 1920. З 1925 на парт., гаспадарчай рабоце, старшыня Расонскага райвыканкома. У ліп. 1941 пакінуты ў тыле ворага, чл. Расонскага падп. РК КП(б)Б. З сак. 1942 у Паўн.-Зах. аператыўнай групе ЦК КП(б)Б. З ліп. 1942 нам. камандзіра, у кастр. 1942 — ліст. 1943 камісар *партызанскай брыгады Расонскай імя І. В. Сталіна,* адначасова ў ліст. 1942 — ліст. 1943 сакратар Расонскага падп. РК КП(б)Б. У 1943—58 на парт. рабоце.

**ВАСІЛЕ́ВІЧЫ,** горад у Рэчыцкім р-не, за 54 км на ПдЗ ад Рэчыцы, чыг. вузел (лініі на Гомель, Калінкавічы, Хойнікі), аўтадарогамі звязаны з аўтамагістраллю Гомель — Калінкавічы. У 1938—59 цэнтр Васілевіцкага р-на, вёска (з 1950 гар. пасёлак). У пач. Айч. вайны на тэр. раёна дзейнічаў Васілевіцкі знішчальны батальён, на базе якога ў жн. 1941 створаны *партызанскі атрад Васілевіцкі.* 25.8.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў В. і раёне знішчылі 1880 мясцовых жыхароў. У перыяд акупацыі на тэр. раёна дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б (ліп.—17.11.1943) і ЛКСМБ (1.6 —17.11.1943), *Васілевіцкае партыйна-камсамольскае падполле,* партыз. брыгады: 99-я Калінкавіцкая, 101-я Даманавіцкая, «Бальшавік», імя Панамарэнкі, імя Чапаева, імя Шчорса, Лоеўская «За Радзіму», Рэчыцкая імя Варашылава, Васілевіцкая імя Панамарэнкі, асобныя атрады імя Кірава, А. Ф. Сарафанава, Парыцкі імя Кірава (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«Сацыялістычная праца».* З набліжэннем фронту акупанты ператварылі В. і станцыю ў моцныя апорныя пункты. Вызвалены 18.11.1943 часцямі 15-й гвардз. кав. дывізіі (ген.-маёр І. Ц. Чаленка) і 193-й Дняпроўскай стралк. дывізіі (ген.-маёр А. Р. Фралянкоў) 65-й арміі Бел. фронту ў час *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943.* У вызваленні В. удзельнічалі партызаны 101-й Даманавіцкай і Васілевіцкай імя Панамарэнкі брыгад. У горадзе брацкія магілы падпольшчыкаў, сав. воінаў і партызан, на іх пастаўлены помнікі. *М. І. Камінскі.*

**ВАСІЛЕ́ЎСКІ** Аляксандр Міхайлавіч (30.9.1895, с. Новая Гольчыха Вічугскага р-на Іванаўскай вобл.—5.12.1977), Маршал Сав. Саюза (1943), двойчы Герой Сав. Саюза (1944, 1945). Чл. КПСС з 1938. У арміі з 1915. У Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік 1-й сусв., грамадз. войнаў. Скончыў Ваен. акадэмію Генштаба (1937). З 1940 нам. нач., з 1941 нач. аператыўнага ўпраўлення і нам. нач. Генштаба. З 1942 нач. Генштаба і нам. наркома абароны СССР. У 1942 каардынаваў дзеянні Паўд.-Зах., Данскога і Сталінградскага франтоў у *Сталінградскай бітве 1942—43,* у 1943 — Варонежскага, Сцяпнога франтоў у *Курскай бітве 1943,* Паўд.-Зах. і Паўд. франтоў пры вызваленні Данбаса, у 1944—4-га Укр. фронту і Чарнаморскага флоту пры вызваленні Крыма. У час *Беларускай аперацыі 1944* каардынаваў дзеянні 3-га Бел. і 1-га Прыбалт. франтоў. У лют. 1945 уведзены ў Стаўку ВГК, камандуючы 3-м Бел. фронтам. З чэрв. 1945 галоўнакамандуючы сав. войскамі на Далёкім Усходзе, кіраваў аперацыямі па разгрому японскіх войск у Маньчжурыі, на Сахаліне і Курыльскіх астравах. З 1946 нач. Генштаба і з 1948 нам. і 1-ы нам. міністра Узброеных Сіл СССР. У 1949—53 міністр Узброеных Сіл СССР. У 1953—57 1-ы нам., нам. міністра абароны СССР. Чл. ЦК КПСС у 1952—61. Дэп. ВС СССР у 1946—58. Двойчы ўзнагароджаны ордэнам «Перамога». Аўтар кн. «Справа ўсяго жыцця» (5 выд. 1984) і інш. Урна з прахам В. ў Крамлёўскай сцяне.

**ВАСІЛЕ́ЎСКІ** Ягор Васілевіч (н. 1.1.1922, в. Гарбачова, Віцебскі р-н), Герой Сав. Саюза (1946). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Віцебскі аэраклуб (1939), Адэскую ваен. авіяцыйную школу (1940). З мая 1943 на Сцяпным, Варонежскім, 2-м Укр. франтах, камандзір эскадрыллі знішчальнага авіяпалка. Удзельнік паветр. баёў пры вызваленні Белгарада, Харкава, Палтавы, Крамянчуга, Кіраваграда, Малдавіі, Румыніі, Венгрыі, Чэхаславакіі, Аўстрыі. Зрабіў 296 баявых вылетаў, правёў 64 паветр. баі, збіў асабіста 21 варожы самалёт, 2 у групе. Да 1958 у Сав. Арміі, палкоўнік. Жыве ў Віцебску.

**ВАСІЛЕ́ЎШЧЫНА,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 5 км на ПдУ ад в. Прошкі Чапаеўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 45 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»,* фашысты загубілі 33 жыхароў, вёску (10 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1982 на месцы вёскі пастаўлены памятны знак. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ВАСІЛІ́ШКІ,** вёска ў Шчучынскім р-не, на р. Лебяда, цэнтр сельсавета і калгаса імя Леніна, за 32 км на Пн ад Шчучына, за 17 км ад чыг. станцыі Скрыбаўцы на лініі Масты — Ліда, на аўтадарозе Матылі — Жалудок. У 1940—54 гар. пасёлак, цэнтр Васілішкаўскага р-на. У чэрв. 1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія за час акупацыі знішчылі ў В. і ў раёне 2865 чал. У перыяд акупацыі на тэр. раёна дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б (8.1—11.7.1944) і ЛКСМБ (ліп. 1943—11.7.1944), партыз. брыгады імя Ленінскага камсамола і Ленінская, партыз. атрад «Баявы» імя Дунаева (гл. адпаведныя арт.), выдавалася газ. *«Красный партизан».* Вызвалены 12.7.1944 часцямі 32-й кав. (ген.-маёр І. П. Калюжны) і 5-й гвардз. кав. (ген.-маёр М. С. Чапуркін) дывізій 3-га гвардз. кав. корпуса 3-га Бел. фронту ў перыяд правядзення *Вільнюскай аперацыі 1944.* У В. брацкая магіла сав. воінаў, магіла ахвяр фашызму, на якіх устаноўлены помнікі, і помнік землякам, якія загінулі ў барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі.

**ВАСІ́ЛЬЕЎ** Аляксандр Карпавіч (12.9.1904, г. Рэчыца —23.4.1956), поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПСС з 1944. На фронце з 1942. Камандзір сапёрнага аддзялення ст. сяржант В. вызначыўся ў баях за вызваленне Польшчы і на тэр. Германіі. 14—16.1.

1945 з групай сапёраў размініраваў 2 мінныя палі, зрабіў праходы ў драцяных загародах, асабіста зняў 75 мін; 5—7.2.1945 пераправіў на лодцы цераз Одэр 250 пехацінцаў і 40 скрынак з боепрыпасамі; 10.3.1945 у баях за расшырэнне плацдарма на левым беразе Одэра пад агнём праціўніка зрабіў 3 праходы ў мінных палях для сав. разведчыкаў; у ноч на 16.4.1945 зрабіў 2 праходы ў мінных палях, зняў 65 мін, у ходзе наступлення размініраваў шашу Лебус — Франкфуртна-Одэры. Пасля вайны на гасп. рабоце.

**ВАСІЛЬЕЎ** Васіль Аляксеевіч (н. 3.1. 1908, г. п. Іванішчы Гусь-Хрустальнага р-на Уладзімірскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Пінскай вобл. Чл. КПСС з 1946. З 1931 у Чырв. Арміі. У 1941 удзельнік абароны Беластока, Ваўкавыска, Слоніма. З сак. 1942 камандзір партыз. атрада, у крас. 1943— ліп. 1944— *партызанскай брыгады імя У. І. Леніна.* У 1944—68 на парт., сав. і гасп. рабоце.

**ВАСІЛЬЕЎ** Сяргей Піліпавіч (2.7.1904, г. Вязьма —10.11.1973), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1946. Працаваў на чыгунцы, у Наркамаце земляробства РСФСР. З 1932 у Чырв. Арміі. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі (1939), у пач. Айч. вайны — абароны Ліды. У партызанах з жн. 1942; з кастр. камандзір групы, з ліп. 1943 нач. штаба атрада, брыгады, у ліст. 1943— ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады імя С. М. Кірава.* У 1944—61 на сав. і гасп. рабоце. Ганаровы грамадзянін г. Ліды. Яго імем названа вуліца ў р. п. Глуша Бабруйскага р-на.

**ВАСІЛЬКОЎ** Мікалай Карнілавіч (6.5. 1902, Віцебск —4.7.1973), ген.-лейт. артылерыі (1954). Чл. КПСС з 1921. У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваеннатэхн. акадэмію імя Дзяржынскага (1931). У 1934—36 выкладчык і нач. лабараторыі Ваен. арт. акадэміі імя Дзяржынскага. У Айч. вайну на Сталінградскім, Варонежскім, Цэнтр., 1-м Укр., Паўд., 1-м Бел. франтах: камандзір асобнай брыгады, корпуса ППА. З 1945 на адказных пасадах у войсках ППА краіны. У 1959—62 нам. начальніка Ваен. каманднай акадэміі ППА.

**ВАСЮЦІН** Якаў Дзмітрыевіч (25.4. 1912, с. Камараўцава Чарнянскага р-на Белгарадскай вобл.— 19.4.1980), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1939. Скончыў Курскую вышэйшую камуніст. школу (1937). З 1938 на камсам. рабоце. У чэрв. 1941 на Зах. фронце. У партызанах з сак. 1942: камандзір групы, з лют. 1943— атрада, у студз.— ліп. 1944 *партызанскай брыгады «За Савецкую Беларусь».* У 1944—61 на парт., адм.-гаспадарчай рабоце.

**ВАЎКАВЫСК,** горад, цэнтр Ваўкавыскага р-на на р. Рось, пры ўпадзенні ў яе р. Ваўкавыя. За 102 км на ПдУ ад Гродна, вузел чыгунак на Баранавічы, Масты, Бераставіцу, Свіслач, аўтамабільных дарог на Масты, Слонім, Ружаны, Бераставіцу. 16,7 тыс. жыхароў у 1939. 25—26.6.1941 В. ад ням.-фаш. войск абаранялі воіны 3-й (камандуючы ген.-лейт. В. І. Кузняцоў) і 10-й (ген.-маёр К. Дз. Голубеў) армій Зах. фронту. У арганізацыі абароны і вывадзе часцей армій з акружэння ўдзельнічаў ген.-лейт. інжынерных войск Дз. М. *Карбышаў.* 28.6.1941 акупіраваны гітлераўцамі, якія на 80 % разбурылі горад, за гады акупацыі знішчылі больш за 29 тыс. сав. грамадзян, у т. л. 20 000 чал. у лагеры ваеннапалонных. У горадзе і раёне дзейнічалі Ваўкавыскія падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ (28.11. 1943—16.7.1944), *Ваўкавыская раённая антыфашысцкая арганізацыя,* партыз. брыгады імя Панамарэнкі, імя Чапаева, асобныя атрады імя Калініна (камандзір Л. І. Сарока) Баранавіцкай вобл., імя Калініна Беластоцкай вобл., партыз. група «Заходнія» (гл. адпаведныя артыкулы). Вызвалены 14.7.1944 воінамі 129-й (ген.-маёр І. У. Панчук), 169-й (палк. Ф. А. Вяроўкін), 5-й (палк. П. Ц. Міхаліцын) стралк. дывізій 40-га стралк. корпуса, 1888-га самаходна-арт. палка (маёр П. М. Вядзехін), часці сіл 44-й асобнай знішчальна-процітанк. арт. брыгады (палк. М. Г. Сыраваткін), 28-й зенітна-арт. дывізіі (палк. Г. Я. Драбкоў) 3-й арміі пры падтрымцы авіядывізій 4-й паветр. арміі 2-га Бел. фронту ў ходзе *Беластоцкай аперацыі 1944.* 11 воінскім злучэнням і часцям, якія вызвалялі горад, нададзены ганаровыя найменні «Ваўкавыскіх» (гл. *Ваўкавыскія вайсковыя злучэнні і часці*). У горадзе 2 брацкія магілы сав. воінаў, брацкая магіла сав. воінаў і партызан, магіла сав. ваеннапалонных, ахвяр фашызму, на якіх устаноўлены помнікі; помнік Вызвалення: мемар. дошкі сав. воінам і падпольшчыкам. Працуе *Ваўкавыскі ваенна-гістарычны музей* імя П. І. Баграціёна. *Н. У. Капранава.*

**ВАЎКАВЫСКАЯ РАЁННАЯ АНТЫФАШЫСЦКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ.** Дзейнічала з лют. 1942 да лют. 1944 на тэр. Ваўкавыскага, часткова Поразаўскага і Свіслацкага р-наў, уваходзіла ў *Беластоцкую абласную антыфашысцкую арганізацыю.* Працавала пад непасрэдным кіраўніцтвам Беластоцкага абл. антыфаш. к-та, яе работа накіроўвалася *Беластоцкім падпольным абкомам КП(б)Б,* Ваўкавыскім падп. РК КП(б)Б. Налічвала больш за 90 чал. сельскіх актывістаў, б. членаў КПЗБ, камсамольцаў, ваеннаслужачых. Складалася з пярвічных падп. ячэек (груп з 3—5 чал.). Ячэйкі знаходзіліся ў Ваўкавыску (на чыг. станцыі, у дэпо, майстэрнях і інш.), вёсках Карпаўцы, Каты, Краснае Сяло, Пекары, Петакі, Севашкі, Трунцы Ваўкавыскага, Грыцкі, Задворанцы, Раманаўцы Свіслацкага, Грыневічы, Міхайлы Поразаўскага р-наў. Арганізацыю ўзначальваў створаны ў лют. 1942 раённы антыфаш. к-т, у які ўвайшлі М. М. Уладыка (старшыня да вер. 1943), М. І. Паўлоўскі (нам., у вер.— ліст. 1943 старшыня), Ф. А.

Я. В. Васілеўскі. А. К. Васільеў.



Курза (старшыня з ліст. 1943), А. А. Васіцкі, В. І. Сарока, В. І. Крачко, С. Ф. Пілат. Члены к-та былі кіраўнікамі ячэек.

Падпольшчыкі вялі паліт. работу сярод насельніцтва, распаўсюджвалі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, зрывалі планы акупантаў па рабаванню насельніцтва, вывазу моладзі ў Германію, ратавалі сав. ваеннапалонных, перапраўлялі іх у партызаны, рабілі дыверсіі на цэментным з-дзе, чыг. транспарце, збіралі і перадавалі ў атрады зброю, боепрыпасы, медыкаменты, накіроўвалі папаўненне. У лют. 1944 гітлераўцы арыштавалі 19 патрыётаў. Падпольшчыкі, якія засталіся на волі, працягвалі выконваць заданні парт. органаў і партыз. камандавання, некаторыя пайшлі ў партызаны.

У барацьбе з ням.-фаш. акупантамі загінулі І. Р. і С. І. Васілеўскія, А. А. Васіцкі, Р. П. Дзімідок, М. А. Крачко, М. А. Курза, У. А. Кухта, М. А. Севярын, А. З. Седляр, М. М. Уладыка. У Ваўкавыску на доме, дзе была явачная кватэра падпольшчыкаў, і на будынку вагоннага дэпо, дзе ў 1939—41 працаваў Уладыка, устаноўлены мемар. дошкі, у в. Карпаўцы помнік падпольшчыкам.

*Л. В. Аржаева, П. П. Ліпіла.*

**ВАЎКАВЫСКІ ВАЕННА-ГІСТАРЫЧНЫ МУЗЕЙ** імя П. І. Баграціёна. Створаны ў 1935. У 1949 аднавіў работу ў будынку, дзе ў 1812 размяшчаўся штаб рус. 2-й Зах. арміі Баграціёна. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, мае 425 экспанатаў, пл. 39 м². Матэрыялы пра баявыя дзеянні 219-га арт. зенітнага дывізіёна, які збіў у 1941 над горадам 14 варожых самалётаў, пра Героя Сав. Саюза Дз. М. *Карбышава,* які ў складзе штаба 10-й арміі 3 сутак кіраваў абаронай Ваўкавыска, пра падполле і

партыз. рух у раёне: фатаграфіі кіраўнікоў Ваўкавыскага антыфаш. падполля, членаў *Нізянскага камсамольска-маладзёжнага падполля*, падп. камсам. і піянерскай арг-цый «Піянерскі тайнік» у в. Карпаўцы, лістоўкі, падп. газеты «Белостокская правда», «Вольная праца», «За Советскую Родину», «Звязда», «Красное знамя», «Уперад» і інш., фатаграфіі,

С. А. Ваўпшасаў. А. А. Вашкевіч.



асабістыя рэчы, зброя партызан, у т. л. камандзіра партыз. злучэння С. П. Шупені, нач. штаба Беластоцкага абл. штаба партыз. руху П. П. *Капусты*, сакратара падп. Ваўкавыскага РК КП(б)Б Р. С. Лук'янава і інш. Дакументы і фатаграфіі злачынстваў ням.-фаш. захопнікаў: пра лагер ваеннапалонных у Ваўкавыску, урочышча Парахоўка, дзе фашысты знішчылі больш за 4 тыс. сав. грамадзян, спаленую разам з жыхарамі в. Шаўлічы. Расказваецца пра вызваленне горада і раёна ад гітлераўцаў, воінскія часці і злучэнні, якія атрымалі ганаровыя найменні «Ваўкавыскіх», і інш. *М. І. Дарожкін.*

**ВАЎКАВЫ́СКІЯ ВАЙСКО́ВЫЯ ЗЛУЧЭ́ННІ І ЧА́СЦІ.** За вызваленне г. Ваўкавыска (14.7.1944) у ходзе *Беластоцкай аперацыі 1944* найменне «Ваўкавыскіх» паводле загада ВГК ад 25.7. 1944 11 злучэнняў і часцей 3-й агульнавайсковай і 4-й паветр. армій 2-га Бел. фронту.

Часці і злучэнні, якім нададзена найменне «Ваўкавыскіх»: 28-я зенітная арт. дывізія (палк. Г. Я. Драбкоў), 10-я інж.-сапёрная брыгада (палк. Я. І. Арцішэўскі), 44-я асобная знішчальна-процітанк. арт. брыгада (палк. М. Г. Сыраваткін), 1311-ы армейскі знішчальны процітанк. полк (падпалк. А. М. Гароднічаў), 1888-ы самаходны арт. полк (маёр П. Н. Вядзёхін), 475-ы армейскі мінамётны полк (падпалк. Я. К. Мудрэнка), 43-і гвардз. штурмавы авіяполк (падпалк. А. Дз. Сакалоў), 198-ы штурмавы авіяполк (маёр Я. І. Селіванаў), 979-ы знішчальны авіяполк (маёр Г. І. Раманцаў), 109-ы асобны полк сувязі (падпалк. П. М. Куртукоў), 9-ы асобны матарызаваны пантонна-маставы батальён (падпалк. Р. М. Скляр). Войскам, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Ваўкавыска, загадам ВГК ад 14.7.1944 аб'яўлена падзяка, у Маскве дадзены салют 12 арт. залпамі з 124 гармат. *М. І. Камінскі.*

**ВАЎКІ́**, вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на ПнЗ ад в. Даражылава Дзёрнавіцкага сельсавета. У лют. 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»*, фашысты загубілі 28 жыхароў, вёску (13 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1965 на магіле ахвяр фашызму ў в. Дзёрнавічы ўстаноўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ВАЎКО́ВА**, вёска на тэр. Расонскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на Пн ад в. Харытонава Гарбачэўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 107 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»*, фашысты загубілі 25 жыхароў, вёску (21 двор) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ВАЎПША́САЎ** Станіслаў Аляксеевіч (партыз. мянушка Градаў; 27.7. 1899, в. Груздзжай Шаўляйскага р-на Літоўскай ССР — 19.11.1976), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху на Беларусі. Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1940. У Чырв. Арміі з 1918, удзельнік грамадз. вайны, нац.-рэв. вайны ў Іспаніі 1936—39, сав.-фінл. вайны 1939—40. З вер. 1941 камандзір батальёна асобнай мотастралк. брыгады спец. прызначэння, якая абараняла Маскву. З сак. 1942 у тыле ворага: камандзір *партызанскага атрада «Мясцовыя»*, які дзейнічаў у Мінскай вобл., з вер. 1943 чл. *Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б.* Удзельнік разгрому імперыялістычнай Японіі ў 1945 — узначальваў у Маньчжурыі аператыўную групу. Да 1958 у органах дзярж. бяспекі, палкоўнік. Аўтар кн. «На разгневанай зямлі» (2 выд., 1965), «Партызанская хроніка» (2 выд., 1971), «На трывожных перакрыжаваннях. Запіскі чэкіста» (1974). Яго імем названы вуліца ў Мінску, пагранічная застава.

**ВАЎЧА́К** Міхаіл Антонавіч (11.11.1908, г. п. Іздзешкава Сафонаўскага р-на Смаленскай вобл. — 24.10.1967), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай і Баранавіцкай абл. Чл. КПСС з 1940. Скончыў Ленінградскі ін-т інжынераў камунальнага буд-ва (1936). З ліп. 1941 камісар батальёна нар. апалчэння (Масква). У партызанах з ліст. 1941: камандзір групы, з жн. 1942 камісар атрада, з вер. 1942 — *партызанскай брыгады 18-й імя М. В. Фрунзе*, у вер. 1943 — ліп. 1944 — партыз. атрада імя Суворава. Пасля вайны на сав. рабоце.

**ВАЎЧКІ́**, вёска на тэр. Віцебскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1,5 км на ПнЗ ад в. Фокіна Вымнянскага сельсавета. У лют. 1943, у час карнай аперацыі *«Шаравая маланка»*, фашысты загубілі 43 жыхароў, вёску спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1968 на месцы вёскі насыпаны курган.

**ВАШКЕ́ВІЧ** Аляксандр Аляксандравіч (28.8.1901, в. Белавеж Беластоцкага ваяводства ПНР — 22.4.1945), Герой Сав. Саюза (1943), ген.-маёр (1945). Чл. КПСС з 1920. Беларус. У Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў кулямётную (1920) і пяхотную (1923) школы. У Айч. вайну з лют. 1943 на Варонежскім, Сцяпным, 2-м і 1-м Укр. франтах. Камандзір стралк. палка падпалк. В. вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра. У ноч на 27.9.1943 умела арганізаваў пераправу палка каля в. Пераналочная Кішэнькаўскага р-на Палтаўскай вобл.; без страт у жывой сіле і тэхніцы полк замацаваўся на плацдарме і насняхова працягваў наступленне. У складзе 2-й арміі Войска Польскага з жн. 1944 камандаваў пяхотнай дывізіяй. Загінуў каля г. Баўцен у час Берлінскай аперацыі. Пахаваны ў Варшаве. Яго імем названа вуліца ў г. Пружаны.

**ВАШКЕ́ВІЧ** Уладзімір Раманавіч (30.3. 1900, в. Зембін Барысаўскага р-на — 10.6.1970), ген.-палк. (1954). Чл. КПСС з 1919. У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1928). У Айч. вайну на Зах., Калінінскім і 3-м Прыбалт. франтах: камандзір дывізіі, нач. штаба арміі, нач. штаба 3-га Прыбалт. фронту. Удзельнік абароны Масквы, вызвалення Эстоніі, Латвіі. З 1945 нач. штаба Прыбалтыйскай і Закаўказскай ваен. акруг. У 1955—56 нач. кафедры Ваен. акадэміі Генштаба, да 1961 на навуковай рабоце.

**ВА́ШЧАНКА** Аляксей Ягоравіч (каля 1920, в. Воската Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл. — 5.9.1942), герой Вял. Айч. вайны. Аўтаматчык, вызначыўся на Сталінградскім фронце. 5.9.1942 у крытычны момант бою, калі праціўнік адкрыў кулямётны агонь з замаскіраванага дзота, В. з воклічам «За Радзіму!» кінуўся на амбразуру. Пасмяротна ўзнаг. ордэнам Леніна. Навечна занесены ў спісы стралк. роты. Яго імем названа вуліца ў Валгаградзе.

**ВЕ́ДРЫЦКІ БОЙ 1943**, бой *партызанскай брыгады 99-й Калінкавіцкай, партызанскай брыгады 101-й Даманавіцкай, партызанскай брыгады Васілевіцкай імя П. К. Панамарэнкі* супраць ням.-фаш. акупантаў ва ўрочышчы Ведрыч Васілевіцкага р-на ў жн. 1943. Партызанская разведка ўстанавіла, што на жывёлагадоўчай базе «Лугас» гітлераўцы надрыхтавалі да адпраўкі ў Германію 2 тыс. галоў буйной рагатай жывёлы, нарабаванай у мясцовага насельніцтва. Камандаванне Палескага партыз. злучэння вырашыла перашкодзіць планам захопнікаў і знішчыць гарнізон, які ахоўваў базу. 23.8.1943 партызаны блакіравалі гар-

нізон з Пд, каб не дапусціць падыходу падмацавання з боку чыг. ст. Васілевічы, кулямётным агнём падавілі дзоты праціўніка, збілі з вышкі кулямётчыкаў і авалодалі базай. Большая частка гарнізона была знішчана, захоплена больш за 500 галоў жывёлы. Партызаны страцілі 12 чал. забітымі і параненымі. *У. С. Пасэ.*

**ВЕ́ЖЫН,** вёска на тэр. Акцябрскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 4 км на Пд ад в. Гаць Ламавіцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 110 чал. У лют. 1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 70 жыхароў, вёску (30 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1965 на магіле ахвяр фашызму (на месцы вёскі) пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ВЕЛІКАСТА́ХАЎСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з вер. 1941 да 15.4.1942 у в. Вялікае Стахава Барысаўскага р-на пад кіраўніцтвам *Барысаўскага падпольнага гаркома-райкома КП(б)Б* (да лют. 1942). Трымала сувязь з *Барысаўскім партыйна-патрыятычным падполлем.* Аб'ядноўвала 25 чал. Кіраўнікі: камуніст С. Л. Бочак, трапіўшыя ў акружэнне ваеннаслужачыя А. І. Валагжанін і В. П. Бальшакоў. Да восені 1941 афармілася група з 17 чал. У мэтах канспірацыі Бочак кіраваў групай цераз брата К. Л. Бочака і камсорга М. Р. Мазынскага.

По радыёпрыёмніку настаўніцы А. В. Нікіфаровіч падпольшчыкі запісвалі і распаўсюджвалі сярод насельніцтва зводкі Саўінфармбюро. Патрыёты здабывалі зброю, боепрыпасы, дакументы для ваеннаслужачых, знішчалі здраднікаў, зрывалі мерапрыемствы акупацыйных улад. У канцы 1941 група Бочака аб'ядналася з падп. групай П. Ц. Солдака, было прынята рашэнне падбіраць людзей, весці нарыхтоўку харчоў для будучага партыз. атрада. У студз. 1942 яны мелі 2 кулямёты, 2 аўтаматы, 6 вінтовак, 6 пісталетаў, 60 гранат і некалькі тысяч патронаў. У лютым С. Л. Бочак, Валагжанін і У. А. Савіцкі падарвалі на чыг. ветцы Барысаў — Лядзішчы эшалон, знішчылі 5 вагонаў з ваен. маёмасцю.

25.3.1942 схоплены і пасля катаванняў расстраляны: К. Л. Бочак, С. Л. Бочак, С. Ц. Кандратовіч, М. І. Кароткі, А. І. Мазынскі, М. Р. Мазынскі, А. П. Нікіфаровіч, І. Я. Савіцкі, У. А. Савіцкі, І. І. Смольскі, І. П. Чарнуха, П. Л. Чура. Летам 1942 арыштавана і закатавана А. В. Нікіфаровіч. Цяжка паранены ў час засады Валагжанін лячыўся ў падп. шпіталі ў Барысаве. Бальшакоў разам з уцалелымі патрыётамі 15.4.1942 пайшоў у лес і ўзначаліў партыз. групу, на базе якой, а таксама дыверсійнай групы «Бывалыя» сфарміраваны партыз. атрад «Дзядзькі Колі» (гл. ў арт. *Партызанская брыгада «Дзядзькі Колі»*). У в. Вялікае Стахава ў 1974 загінуўшым падпольшчыкам пастаўлены помнік. *Ю. А. Капіца.*

**ВЕ́ЛЛЕ,** вёска на тэр. Расонскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1,5 км на З ад в. Ушчалёпкі Расонскага пасялковага Савета. Перад вайной у ёй жыло 77 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»*, фашысты загубілі 74 жыхароў, у асн. жанчын і старых, вёску (22 двары) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1965 на месцы вёскі насыпаны курган, на вяршыні якога пастаўлена стэла. На магіле ахвяр фашызму ўстаноўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ВЕ́РМАХТ** (ням. Wermacht), узброеныя сілы фаш. Германіі ў 1935—45. Базай для стварэння і разгортвання В. быў рэйхсвер (узброеныя сілы Германіі ў 1919—35, абмежаваныя па колькасці і складу, камплектаваліся з наёмнікаў), перайменаваны ў В. пасля ўвядзення 16.3.1935 усеагульнай воінскай павіннасці ў парушэнне ўмоў Версальскага мірнага дагавора 1919 пры патуранні зах. дзяржаў. Адно з гал. сродкаў ажыццяўлення планаў германскага мілітарызму і фашызму, накіраваных на ўстанаўленне гегемоніі ў Еўропе і дасягненне сусв. панавання. Вярхоўны галоўнакамандуючы з 1938— А. Гітлер. Вышэйшы орган ваен. кіраўніцтва В.— вярх. галоўнакамандаванне (ОКВ), рабочы орган — штаб ОКВ, якія непасрэдна распрацоўвалі планы ваен. дзеянняў супраць суверэнных еўрапейскіх дзяржаў, у т. л. і Савецкага Саюза (гл. *«Барбароса план»*). Дзейнічаў штаб аператыўнага кіраўніцтва, фармальна ён уваходзіў у штаб ОКВ, фактычна з'яўляўся самастойным органам, які падпарадкоўваўся асабіста Гітлеру. Да пачатку нападу на СССР узброеныя сілы фаш. Германіі былі поўнасцю разгорнутыя і мелі значны вопыт вядзення вайны на Захадзе. Пры падрыхтоўцы і ў ходзе вайны праводзілася шырокамаштабная ідэалагічная апрацоўка асабовага складу В. ў духу антысаветызму і расізму.

У гады вайны В. складаўся з сухапутных войск, ваен.-паветр. сіл (ВПС) і ваенна-марскіх сіл (ВМС), кожнае ўзначальвалі галоўнакамандуючы і штаб. Галоўны від узброеных сіл — сухапутныя войскі, падзяляліся на дзейную армію і армію рэзерву. Вышэйшае аператыўна-стратэгічнае аб'яднанне сухапутных войск — група армій — уключала 2—5 армій палявых і танкавых (да кастр. 1941 — студз. 1942 наз. танк. групамі). На тэр. Беларусі дзейнічала група армій *«Цэнтр»*. Кожная армія складалася з 3—6 карпусоў (армейскіх і танкавых), корпус з 3—5 дывізій (пяхотных, матарызаваных, танкавых). Асн. тактычнае злучэнне — дывізія, вышэйшае — корпус. Галоўная ўдарная сіла сухапутных войск — танк. войскі. Танкавая армія мела 400—600, падчас да 800 машын. Артылерыя па колькасці асабовага складу займала ў сухапутных войсках 2-е месца пасля пяхоты. Пяхота мела на ўзбраенні вял. колькасць аўтаматычнай стралк. зброі. Адасобленай састаўной часткай В. з 1940 былі палявыя войскі СС, створаныя на базе ваенізаваных арг-цый фаш. партыі — ахоўных атрадаў СС, часткова штурмавых атрадаў СА, якія ўяўлялі сабой выразна класавыя фарміраванні, паліт. інструмент гвалту ў руках фаш. дыктатуры, а таксама арг-цый гітлерюгенд. ВПС уключалі авіяцыю, войскі ППА, паветр.-дэсантныя, з восені 1942 і авіяпалявыя (дзейнічалі на франтах у складзе аб'яднанняў). У ліп. 1941 бамбардзіроўшчыкі складалі 58 % усіх баявых самалётаў, да 1943 вял. развіццё атрымала знішчальная авіяцыя. Вышэйшае аператыўнае аб'яднанне ВПС — паветр. флот. Паветраны флот складаўся з 1—3 авіяцыйных і некалькіх зенітных карпусоў. Авіякорпус меў 5—6 эскадр (часам асобных авіядывізій), разведвальную групу. Эскадра — вышэйшае тактычнае злучэнне аднароднага складу з 2—5 авіягруп. ВМС уключалі флот і войскі берагавой абароны. Да 1941 германскі флот пераважна надводны, з сярэдзіны 1941 павялічылася будаўніцтва падводных лодак.

У ходзе жорсткіх баёў на сав.-германскім фронце ў 1941—43 В. панёс значныя страты; кадравы склад сухапутных войск у большасці быў знішчаны. Правіцелі фаш. Германіі былі вымушаны звярнуцца да «татальнай мабілізацыі». Папаўненне арміі пажылымі і абмежавана прыгоднымі для ваен. службы рэзка панізіла баявыя якасці В., асабліва пяхоты; цяжкія паражэнні на сав.-германскім фронце падарвалі дух ням.-фаш. войск. Узмацненне паліт. кантролю за асабовым складам В., яго ідэалагічная апрацоўка, увядзенне надзвычайных мер з канца 1943 не здолелі ўмацаваць В. і выратаваць яго ад разгрому. В., і ў першую чаргу яго генералітэт,— непасрэдныя віноўнікі шматлікіх злачынстваў, зробленых фаш. Германіяй у гады вайны. Кіраўніцтва В. санкцыяніравала парушэнне замацаваных у міжнар. праве законаў і звычаяў вайны, актыўна ажыццяўляла злачынныя акцыі ў адносінах да салдат і афіцэраў Чырвонай Арміі, ваеннапалонных, у першую чаргу палітработнікаў, камуністаў, камсамольцаў. Камандаванне В. падтрымлівала акупацыйную палітыку фашызму (гл. *Акупацыйны рэжым*). Часці В. ўдзельнічалі ў расправах над грамадзянскім насельніцтвам на часова акупіраванай тэр. СССР, дзяржаў Еўропы, у *карных аперацыях* супраць партызан і насельніцтва, у вывазе на прымусовыя работы ў Германію. Часці В., якія адступалі, ажыццяўлялі тактыку «выпаленай зямлі». Шматлікія злачынствы камандавання і часцей В. выкрыты на Нюрнбергскім працэсе над гал. нацысцкімі злачынцамі, а таксама на судовым працэсе па справе вярх. галоўнакамандавання фаш. В.

**ВЕРХНЕДНЯПРО́ЎСКІЯ ВАЙСКО́ВЫЯ ЗЛУЧЭ́ННІ І ЧА́СЦІ.** За фарсіраванне Дняпра ў верхнім яго цячэнні і авалоданне гарадамі Шклоў (27.6.1944), Быхаў (28.6.1944) і Магілёў (28.6. 1944) у ходзе *Магілёўскай аперацыі 1944* найменне «Верхнедняпроўскіх» паводле загада ВГК ад 10.7.1944 атрымалі 32 злучэнні і часці 33-й і 50-й армій 2-га Бел. фронту.

Часці і злучэнні, якім нададзены найменні «Верхнедняпроўскіх»: 32-я (палк. П. К. Штэйгер), 70 (палк. М. М. Калеснікаў), 95 (палк. С. К. Арцем'еў), 110 (палк. В. А. Гужавін), 324 (палк. І. К. Казак), 362 (ген.-маёр М. А. Еншын) стралк. дывізіі, 47-я зенітная арт. дывізія (палк. І. М. Каротків), 142-я армейская пушачная арт. брыгада (палк. В. З. Яршоў), 31-я асобная гвардз. гаўбічная арт. брыгада (палк. С. В. Зяблікаў), 27-я (палк. І. М. Сакаленка) і 13-я (палк. І. І. Кілееў) асобныя знішчальна-процітанк. арт. брыгады, 43-я гвардз. танк. брыгада (палк. М. П. Лукашоў), 34-я інжынерна-сапёрная брыгада (палк. Ф. Я. Дзергуноў), 44-ы (маёр У. К. Андрушчанка), 455 (падпалк. А. Ф. Кольчанка), 459-ы (маёр М. А. Казлоў) стралк. палкі, 41-ы гвардз. карпусны арт. полк (падпалк. С. А. Зярноў), 49-ы гаўбічны арт. полк (падпалк. Я. М. Варшаўскі), 89-ы гвардз. мінамётны полк (падпалк. А. А. Волкаў), 472-і арт. полк (маёр І. А. Панчанка), 517-ы (падпалк. В. Я. Мурынаў) і 557-ы (падпалк. В. М. Макар'еў) карпусныя арт. палкі, 1273-і (падпалк. А. А. Карасёў) і 1479-ы (падпалк. А. Р. Стасевіч) армейскія зенітныя арт. палкі, 307-ы гвардз. мінамётны полк (падпалк. П. А. Фёдараў), 334-ы гвардз. цяжкі самаходны арт. полк (падпалк. М. П. Татарэнка), 1196-ы самаходны арт. полк (маёр І. Дз. Сіваў), 92-і (маёр А. І. Канарчык), 122-і (маёр І. І. Шчаціннікаў), 89-ы (маёр К. Дз. Харытонаў) і 87-ы (маёр І. В. Пятроў) асобныя матарызаваныя пантонна-маставыя батальёны, 173-я асобная рота ранцавых агнямётаў (ст. лейт. М. А. Байкоў). Войскам, якія ўдзельнічалі ў баях пры фарсіраванні Дняпра і за вызваленне Шклова і інш. гарадоў, загадам ВГК ад 28.6.1944 аб'яўлена падзяка, у Маскве дадзены салют 20 арт. залпамі з 224 гармат. *М. І. Камінскі.*



**Вечны агонь** у мемарыяльным комплексе Хатынь.



Вечны агонь на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан у г. п. Шуміліна.

**ВЕРХНЯДЗВІ́НСК,** горад, цэнтр Верхнядзвінскага р-на, у сутоку рэк Зах. Дзвіна і Дрыса. За 175 км на ПнЗ ад Віцебска, чыг. станцыя за 3 км ад горада на лініі Полацк — Даўгаўпілс, на аўтадарозе Полацк — Даўгаўпілс. Да 25.12.1962 наз. Дрыса, цэнтр Дрысенскага р-на. 2,7 тыс. жыхароў у 1939. 3.7.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1941 на рубяжы Ідрыца — Дрыса — Віцебск вялі баі часці 22-й арміі Зах. фронту і 27-й арміі Паўн.-Зах. фронту, якія наносілі ўдары па стыку двух ням. франтоў па злучэннях 3-й танк. групы (група армій «Цэнтр») і 16-й арміі (група армій «Поўнач»), што наступалі. Акупанты загубілі ў горадзе 769 чал., у раёне 6584 чал. У В. стаяў ням.-фаш. гарнізон (да 200 салдат і афіцэраў). У горадзе і раёне дзейнічалі Дрысенскія падп. райкомы КП(б)Б (18.7.1942—26.12.1943, 15.1—12.7.1944) і ЛКСМБ (18.6.1942—12.7.1944), партыз. брыгады 1-я і 2-я Дрысенскія, імя Ракасоўскага, Асвейская імя Фрунзе, «За Савецкую Беларусь» (гл. адпаведныя арт.); выдавалася падп. газ. *«Патрыёт Радзімы»*. Партызаны поўнасцю кантралявалі дарогу Полацк — Верхнядзвінск, 4.8.1942 за 20 км ад В. ўзарвалі 110-метровы мост цераз р. Дрыса на дарозе Полацк — Даўгаўпілс (гл. *Дрысенская аперацыя 1942*). У 1942 жыхары раёна перадалі ў фонд Чырвонай Арміі 375 тыс. руб. Вызвалены 12.7.1944 воінамі 332-й стралк. дывізіі (палк. Ц. Ф. Ягошын) 83-га стралк. корпуса 4-й ударнай арміі 2-га Прыбалтыйскага фронту ў ходзе *Рэжыцка-Дзвінскай аперацыі 1944*. У горадзе брацкая магіла і магілы сав. воінаў, на якіх пастаўлены помнікі; мемар. комплекс ушаноўвае памяць аб ахвярах фашызму, спаленых вёсках, воінах-вызваліцелях і земляках, якія загінулі на франтах Вял. Айч. вайны; мемар. дошка ў гонар вызвалення горада і раёна. *В. С. Паваліхіна.*

**ВЕ́РХНЯЕ СТУ́НЖАВА,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на ПдЗ ад в. Сар'я. Перад вайной у ёй жыло 69 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»*, фашысты загубілі 58 жыхароў, вёску (14 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1982 на месцы вёскі насыпаны курган, на яго вяршыні пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**«ВЕСНАВО́Е СВЯ́ТА»** («Frühlingfest»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партызан і мясцовага насельніцтва *Полацка-Лепельскай партызанскай зоны* (Докшыцкі, Лепельскі, Полацкі, Ушацкі р-ны) 17.4—5.5.1944.

Праводзілася сіламі 12 палкоў СС і паліцыі, часцей 6-й асобай авіяпалявой, 5 пяхотных, 201-й ахоўнай і запасной дывізій, асобага батальёна СС Дырлевангера, 501-га танк. палка, 2 палкоў брыгады здрадніка Камінскага — каля 6 тыс. чал., 137 танкаў, 235 гармат, каля 70 самалётаў, 2 бронецягнікі. Кіравалі аперацыяй камандуючы 3-й танк. арміяй ген.-палк. Рэйнгарт і генеральны камісар генеральнай акругі Беларусь групенфюрэр войск СС і ген.-лейт. паліцыі Готберг.

У блакіраваным ням.-фаш. войскамі раёне дзейнічалі 16 партыз. брыгад, больш за 17 тыс. чал., на ўзбраенні якіх было 9344 вінтоўкі, 1544 аўтаматы, 721 кулямёт, 151 процітанк. ружжо, 143 мінамёты, 21 гармата. Кіравала і каардынавала баявыя дзеянні брыгад аператыўная група ЦК КП(б)Б і БШПР на чале з У. Е. *Лабанком.* Гітлераўцы планавалі прыціснуць партызан да чыгункі Маладзечна — Полацк, уздоўж якой сканцэнтравалі свае войскі з 2 бронецягнікамі. Галоўны ўдар наносіўся на паўд. участку абароны, дзе наступалі часці 2 дывізій і 2 палкоў. Вялікую дапамогу партызанам аказвалі БШПР і ваен. савет 1-га Прыбалт. фронту. Авіяцыя фронту зрабіла 354 вылеты, нанесла бомбавыя ўдары па скопішчах праціўніка, перапраўіла больш за 250 т грузаў, вывезла каля 1500 параненых і хворых. Адначасова войскі пачалі наступленне на полацкім напрамку. Адцягваючыя ўдары нанеслі брыгады Сенненска-Аршанскай і Барысаўска-Бягомльскай партыз. зон і партызаны Вілейскай вобл. Нягледзячы на стойкасць партызан, да канца крас. гітлераўцам удалося звузіць кальцо акружэння да 20 км вакол Ушачаў. Але дасягнуць сваіх мэт акупанты не змаглі: у ноч на 5 мая блакада ням.-фаш. войск была прарвана, усе брыгады выйшлі з акружэння і вывелі каля 15 тыс. чал. мясцовага насельніцтва (гл. *Полацка-Лепельская бітва 1944*). Пад выглядам барацьбы з партызанамі гітлераўцы загубілі 7011 чал., захапілі для вывазу ў Германію 11 тыс. чал., спалілі шэраг вёсак. *Р. Р. Кручок.*

**«ВЕ́СТНИК РО́ДИНЫ»,** перыядычны лісток *Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б.* Выдаваўся ў студз.— лют. 1942 у Мінску на рус. мове ў 2 падп. друкарнях (вул. Астроўскага, 7 і Дабрамысленскі зав., 7) паводле рашэння к-та ад 5.1.1942. З мэтай канспірацыі

лісток выдаваўся ад імя Палітупраўлення Зах. фронту. У падрыхтоўцы матэрыялаў да друку ўдзельнічалі члены гаркома В. К. *Нікіфараў* і У. С. *Амельянюк.* Зберагліся 3 нумары ад 18 і 25 студз. і 1 лют. 1942.

**ВЕСЯЛО́ВА,** вёска на тэр. Асіповіцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на ПнУ ад в. Лочын Лапіцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 72 чал. У маі 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 60 жыхароў, вёску (15 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ВЕ́ТКА,** горад, цэнтр Веткаўскага р-на, прыстань на р. Сож. За 22 км на ПнУ ад Гомеля, аўтадарогамі звязана з Гомелем, Добрушам, Чачэрскам. 6 тыс. жыхароў у 1939. 18.8.1941 за В., якую абаранялі часці 55-й стралк. дывізіі (падпалк. Г. А. Тэр-Гаспаран), разгарнуліся жорсткія баі. Горад некалькі разоў пераходзіў з рук у рукі. Толькі пасля падыходу свежых сіл праціўніка сав. войскі вымушаны былі адступіць. 18.8.1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў В. і раёне 656 чал. У горадзе і раёне дзейнічалі Веткаўскія падпольныя райкомы КП(б)Б (вер.—2.10. 1943) і ЛКСМБ (3.9 —2.10.1943), партыз. брыгады 1-я Гомельская, Добрушская імя Сталіна, «Бальшавік» (гл. адпаведныя артыкулы). Вызвалена 28.9.1943 воінамі 89-й (палк. К. М. Баннікаў), 159-й (палк. С. П. Хайдукоў) танк. брыгад, 44-й мотастралк. брыгады (палк. Р. Г. Скрыпка) 1-га танк. корпуса і 17-й гвардз. кав. дывізіі (ген.-маёр П. Т. Курсакоў) 2-га гвардз. кав. корпуса Бранскага фронту ў ходзе *Бранскай аперацыі 1943.* У горадзе брацкая магіла сав. воінаў і магіла ахвяр фашызму, на якіх пастаўлены помнікі. *В.В. Гетаў.*

**ВЕ́ТРЫНА,** гар. пасёлак у Полацкім р-не, на беразе воз. Сердава. За 20 км на ПдЗ ад Полацка, на аўтадарозе Полацк — Вільнюс, чыг. станцыя на лініі Полацк — Маладзечна. У 1935—60 цэнтр раёна. У пач. вайны 9.7.1941 у раёне В. 174-я стралк. дывізія (камбрыг А. І. Зыгін) некалькі гадзін вяла жорсткія баі супраць часцей 3-й танк. арміі праціўніка, прыкрываючы Полацк. З 11.7.1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў В. і раёне 1384 чал. На тэр. раёна дзейнічалі Ветрынскія падп. райкомы КП(б)Б (26.9.1942—1.7.1944) і ЛКСМБ (14.9.1942—1.7.1944), *партызанская брыгада імя В. І. Чапаева, партызанскі атрад «Баявы»,* выдавалася падп. газ. *«Чырвоная звязда».* Вызвалена 29.6.1944 воінамі 159-й танк. брыгады (палк. І. А. Фёдараў) і 44-й мотастралк. брыгады (падпалк. А. І. Халаеў) 1-га танк. корпуса 1-га Прыбалтыйскага фронту ў ходзе *Полацкай аперацыі 1944.* У пасёлку брацкая магіла сав. воінаў і партызан, на якой устаноўлены помнік.
*Н. У. Капранава.*

**ВЕЦСЛАБАДСКІ БОЙ 1943,** сумесная баявая аперацыя партыз. фарміраванняў Беларусі, Латвіі, Літвы і Калінінскай вобл. РСФСР супраць ням.-фаш. захопнікаў у нас. пункце Вецслабада Латвійскай ССР 13.1.1943. У аперацыі ўдзельнічала 800 байцоў трох бел. партыз. брыгад — «За Савецкую Беларусь» (пазней *партызанская брыгада імя К. К. Ракасоўскага), партызанскай брыгады Асвейскай імя М. В. Фрунзе* і Дрысенскай (пазней *партызанская брыгада 1-я Дрысенская*), 4-я Калінінская партыз. брыгада (камандзір В. М. Лісоўскі, камісар В. Н. Вакарын), Латышскі [камандзір В. П. Самсон, камісар упаўнаважаны ЦК КП(б) Латвіі А. П. Ошкалн] і Літоўскі (камандзір П. Пранявічус) партыз. атрады. План аперацыі быў распрацаваны штабам Латышскага партыз. атрада, кіраўніцтва ёю ажыццяўляў штаб брыгады «За Савецкую Беларусь» на чале з камандзірам брыгады А. В. Раманавым. Атрады «Бясстрашны» (камандзір С. Ф. Бубін, камісар К. С. Кузняцоў) Дрысенскай брыгады, імя Шчорса (камандзір П. М. Машэраў, камісар С. Б. Пятроўскі) брыгады «За Савецкую Беларусь» і Латышскі склалі штурмавую групу. Астатнія атрады арганізавалі засадныя групы і групы прыкрыцця дарог, якія звязвалі гарнізон Вецслабады з найбліжэйшымі гарнізонамі праціўніка, а таксама групы эвакуацыі нарабаванага збожжа. У ноч на 13 студзеня штурмавыя групы скрытна падышлі да ўскраіны Вецслабады, па агульным сігнале атакавалі варожыя дзоты і ўварваліся на цэнтр. вуліцу. Ва ўпартым баі партызаны разграмілі будынкі камендатуры, паліцэйскага ўчастка, валаснай управы, падпалілі пошту, спіртзавод, узарвалі складскія памяшканні, захапілі 400 мяшкоў збожжа, 65 мяшкоў цукру, 4 тоны воўны, якія былі нарабаваны акупантамі ў насельніцтва, знішчылі больш за 50 гітлераўцаў. У выніку гэтай аперацыі партызаны сарвалі адпраўку ў Германію вял. запасаў збожжа і інш. прадуктаў харчавання, а таксама планы карных аперацый праціўніка супраць партызан. *У. С. Пасэ.*

**ВЕ́ЧНЫ АГОНЬ.** Запальваюць і падтрымліваюць каля помнікаў, манументаў, на брацкіх магілах і мемар. могілках воінаў, партызан, ахвяр фашызму, каля курганоў Славы, Памяці, Бессмяротнасці як сімвал увекавечання памяці загінуўшых. У Беларусі В. а. гарыць: у Брэсцкай крэпасці-героі; каля манументаў Перамогі ў Мінску і Віцебску; каля помнікаў загінуўшым у Вял. Айч. вайну сав. воінам і партызанам у Белаазёрску, Смалявічах, Стоўбцах, г. п. Шуміліна, рабочым «Гомсельмаша», у в. Галоўчын Бялыніцкага р-на, рабочым і служачым шклозавода ў г. п. Касцюкоўка, ахвярам фашызму лагераў смерці Трасцянец, Масюкоўшчына (Мінскі р-н); каля помніка Вызвалення ў Баранавічах; каля курганоў Славы на 21-м км дарогі Мінск — Масква, у Гродне, Лідзе, каля кургана Бессмяротнасці ў Полацку, кургана Памяці ахвяр фашызму спаленай гітлераўцамі в. Драмлёва ў в. Сцяпанкі Жабінкаўскага р-на, кургана Славы ў Мазыры; на брацкіх магілах сав. воінаў і партызан у Бабруйску, Бярозе, Гомелі, Дзятлаве, Ляхавічах, г. п. Масты, Нясвіжы, Рэчыцы, Слоніме; на магілах Невядомага салдата ў Гарадку, у г. п. Карэлічы, Навагрудку; у мемар. парку Герояў у Оршы; у мемар. комплексах Хатынь (Лагойскі р-н), «Прарыў» (Ушацкі р-н), Рыленкі (Дубровенскі р-н), Сав.-польскай баявой садружнасці ў в. Леніна Горацкага р-на, «Змагарам за Савецкую ўладу» у Магілёве, «Вызваліцелям» у Пінску, у в. Верцялішкі (Гродзенскі р-н).

**ВІ́ДЗЫ,** гар. пасёлак у Браслаўскім р-не. За 40 км на ПдЗ ад г. Браслаў, за 30 км ад чыг. ст. Гадуцішкі на лініі Лынтупы — Варапаева, аўтадарогамі звязаны з Браславам, Адуцішкісам, Паставамі і Дрысвятамі. У 1940—60 цэнтр Відзаўскага р-на. 27.6.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, разбураны. Акупанты забілі ў пасёлку



**Вечны агонь** у мемарыяльным комплексе Брэсцкая крэпасць-герой.

і раёне 4154 чал. У пасёлку дзейнічала падп. камсамольска-маладзёжная група К. Я. Бялова, на тэр. раёна — Відзаўскія падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ (14.9.1943—4.7. 1944), *партызанская брыгада «Спартак»*, выдавалася падп. газ. *«Красное знамя»*. У ноч на 29.6.1944 партызаны брыгады «Спартак» разам з літоўскімі партызанамі атрадаў імя К. Каліноўскага і «Жальгірыс» разграмілі ў В. ням.-фаш. гарнізон і некалькі дзён утрымлівалі пасёлак. Вызвалены 8.7.1944 часцямі 6-й гвардз. арміі 1-га Прыбалт. фронту ў ходзе *Шаўляйскай аперацыі 1944*. У гар. пасёлку брацкія магілы сав. воінаў і партызан, на якіх пастаўлены помнікі.

*В. С. Паваліхіна.*

**ВІЛЕ́ЙКА,** горад, цэнтр Вілейскага р-на, на р. Вілія, за 103 км на ПнЗ ад Мінска, чыг. станцыя на лініі Маладзечна — Полацк. У 1939—44 цэнтр Вілейскай вобл., 7,5 тыс. жыхароў у 1939. Акупіравана ням.-фаш.



Помнік землякам у Вілейцы, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

войскамі 25.6.1941. Гітлераўцы стварылі тут лагер смерці, дзе знішчылі больш за 7,5 тыс. сав. грамадзян. На тэр. горада і Куранецкага р-на, на тэр. якога знаходзіўся абл. цэнтр, дзейнічалі *Вілейска-Куранецкае партыйна-камсамольскае падполле, Вілейскі падпольны абком КП(б)Б, Вілейскі падпольны абком ЛКСМБ*, Куранецкія падп. райкомы КП(б)Б (17.10. 1943—2.7.1944) і ЛКСМБ (10.10. 1943—2.7.1944), *Вілейскі падпольны гарком КП(б)Б* і *Вілейскі падпольны гарком ЛКСМБ*, партыз. брыгады «За Савецкую Беларусь», імя Будзённага, імя Варашылава, імя Даватара, 2-я імя Суворава, якія ўваходзілі ў склад *Вілейскага партызанскага злучэння*, а таксама брыгада «Няўлоўныя», партыз. полк Смаленскі, асобны атрад «Трэція» (гл. адпаведныя артыкулы), выдаваліся падп. газеты *«Молодёжная правда»* і *«Народный мститель»*. 31.10—1.11.1943 1-я Антыфашысцкая партыз. брыгада нанесла вялікія страты фаш. гарнізону ў В. (гл. *Вілейскі бой 1943*). Вызвалена 2.7.1944 часцямі 35-й гвардз. танкавай брыгады (ген.-маёр А. А. Асланаў) 3-га гвардз. механіз. корпуса 3-га Бел. фронту ў ходзе *Мінскай аперацыі 1944* ва ўзаемадзеянні з партызанамі брыгады «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага (камандзір Г. Ф. Пакроўскі). У В. брацкія магілы сав. воінаў і партызан, ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі; помнікі Вызвалення, землякам; мемарыяльныя дошкі падпольшчыкам, работнікам міліцыі, якія загінулі ў Айч. вайну. Працуе *Вілейскі гісторыка-краязнаўчы музей.*

*М. І. Камінскі.*

**ВІЛЕ́ЙСКАЕ ПАРТЫЗА́НСКАЕ ЗЛУЧЭ́ННЕ.** Створана ў ліп.— жн. 1943 *Вілейскім падпольным абкомам КП(б)Б*. Узначальвалася ваенна-аператыўным аддзелам Вілейскага падп. абкома КП(б)Б. Кіруючы склад злучэння: 1-ы сакратар Вілейскага падп. абкома КП(б)Б І. Ф. *Клімаў*, нач. ваенна-аператыўнага аддзела Ф. Р. *Маркаў*. Тэрыторыя вобласці была падзелена на 3 зоны: Паўд.-Усх., Цэнтр., Паўн. (упаўнаважаныя па зонах П. А. *Жуковіч*, А. А. *Манахаў*, В. А. Цітавец), у кожнай створаны аператыўныя групы падп. абкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, замацаваны партыз. брыгады і атрады.

Яднала 18 партыз. брыгад —4-ю Беларускую, «За Радзіму», «За Савецкую Беларусь», імя Будзённага, імя Варашылава, імя Гастэлы, імя Даватара, імя Жукава, імя Калініна, імя Кутузава, імя Ракасоўскага, імя Суворава 1-ю, імя Суворава 2-ю, імя Фрунзе, імя ЦК КП(б)Б, імя У. І. Леніна, «Кастрычнік», «Спартак», 5 асобна дзейных атрадаў — Агітацыйны імя Горкага, «Баец», імя Катоўскага, імя Панамарэнкі, Суслава (гл. адпаведныя артыкулы); усяго каля 12 тыс. партызан. А. С. *Азончыку*, А. І. *Валынцу*, Ф. Р. Маркаву, Г. І. *Маслоўскай*, П. М. *Машэраву* прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

*І. Ф. Клімаў.*

**ВІЛЕ́ЙСКА-КУРАНЕ́ЦКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з ліп. 1941 да ліп. 1944 у г. Вілейка і ў вёсках Куранецкага р-на. Адзін з арганізатараў — А. І. *Валынец*. З 1943 дзейнасць падполля ажыццяўлялася пад кіраўніцтвам *Вілейскага падпольнага абкома КП(б)Б*, Куранецкага падп. РК КП(б)Б, з крас. 1944 і *Вілейскага падпольнага гаркома КП(б)Б.*

У снеж. 1941 у в. Халопы адбылася нарада кіраўнікоў падп. груп, што існавалі на гэты час, на якой была створана Вілейска-Куранецкая падп. арг-цыя і выбраны к-т. У склад к-та ўвайшлі: Ю. М. Балашоў, І. І. Баслык (нам. кіраўніка), М. М. Баслык, З. П. Бічун, Б. Л. Дзіменштэйн, М. М. Мацюкевіч (кіраўнік), У. Ф. Субач, І. А. Шырочын. Былі вызначаны асн. задачы: стварэнне і ўмацаванне падп. груп, наладжванне сувязей з партыз. атрадамі, расшырэнне масава-паліт. і разведвальна-дыверсійнай работы. Падполле аб'ядноўвала 75 чал., 14 груп, з іх у Вілейцы 5, кіраўнікі — Балашоў, І. І. Баслык, У. М. Жаўтко, Л. В. Чыжэўская, М. Н. Валынец, у в. Білцэвічы — В. А. Рогач, в. Волкаўшчына — К. А. Хаванскі, в. Куранец — Мацюкевіч, са снеж. 1941 І. Б. Айнбіндэр, в. Талуць — М. Я. Кручонак, в. Уручча — А. І. Ахрэм, в. Халопы — Бічун, в. Чабатары — В. І. Чабатар.

Падпольшчыкі трымалі сувязь з *партызанскай брыгадай «За Савецкую Беларусь»*, запісвалі па радыё зводкі Саўінфармбюро і распаўсюджвалі ў выглядзе лістовак. Восенню 1941 праніклі ў ням. друкарню, надрукавалі 2 лістоўкі (па 50 экз.), у канцы года вынеслі з яе неабходнае абсталяванне для стварэння падп. друкарні, дзе друкавалі лістоўкі вялікімі тыражамі. Патрыёты здабывалі і перадавалі партызанам зброю, медыкаменты, перавязачны матэрыял, харчы, дакументы, вялі разведку, вызвалілі з фаш. лагера і пераправілі да партызан каля 300 ваеннапалонных, сістэматычна парушалі тэлеграфна-тэлефонную сувязь, спалілі мост цераз р. Вілія на шашы Вілейка — Маладзечна, лесапілку каля Куранца, вывезлі зброю і боепрыпасы са складу гар. паліцыі, на чыг. станцыі Вілейка вывелі са строю вадакачку і 9 паравозаў, узарвалі бензасклад, 3 склады з боепрыпасамі, ваен. амуніцыяй, харчамі і сенам, будынак гебітскамісарыята, дом фаш. прапаганды і біржу працы са спісам некалькіх тысяч сав. людзей, што падлягалі вывазу на катаргу ў Германію, разам з партызанамі разграмілі ў в. Каловічы гарнізон і валасную ўправу, сарвалі намер акупантаў уцягнуць моладзь вілейскай семінарыі ў фаш. арг-цыю «Саюз беларускай моладзі», знішчылі шэфа СД.

У барацьбе з ням.-фаш. акупантамі загінулі: І. Б. Айнбіндэр, Ю. М. Балашоў, П. К. Балуш, З. П. Бічун, Я. В. Валынец, М. Дз. Гіль, М. М. Гіль, Р. Р. Данільчык, Т. Р. Данільчык, Б. Л. Дзіменштэйн, А. М. Дурэйка, Л. І. Жаўтко, М. А. Занковіч, П. П. Занковіч, М. Я. Кручонак, П. А. Маліноўскі, П. Р. Маліноўскі, І. Ф. Сівец, М. І. Субач, Н. А. Субач, У. А. Субач, У. Ф. Субач, П. Д. Сялюн, К. А. Хаванскі, В. І. Чабатар, І. А. Шырочын, М. А. Шырочын. Многія падпольшчыкі ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР. А. І. Валынцу

прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У Вілейцы імем П. А. Маліноўскага названа вуліца, устаноўлена мемар. дошка падпольшчыкам. У 1966 у в. Куранец удзельнікам падполля пастаўлены помнік. *І. Ф. Клімаў.*

**ВІЛЕЙСКІ БОЙ 1943,** бой *партызанскай брыгады 1-й Антыфашысцкай* супраць ням.-фаш. акупантаў у г. Вілейка 31.10—1.11.1943. Фаш. гарнізон у Вілейцы налічваў 3 тыс. салдат і афіцэраў, некалькі арт. і мінамётных узводаў, на зах. ускраіне горада знаходзілася паліцэйская школа, з Пд і У Вілейка была ахавана сістэмай дзотаў. Гарнізон прымаў актыўны ўдзел ва ўсіх буйных карных аперацыях, рабаваннях, знішчэнні сав. грамадзян (толькі ў Вілейцы ім загублена каля 4 тыс. жыхароў). У горадзе размяшчалася больш за 10 складоў з прадуктамі, боепрыпасамі, ваеннай амуніцыяй. Партызаны планавалі раптоўным ударам нанесці праціўніку страты ў жывой сіле і тэхніцы, аслабіць яго карныя дзеянні. 27—30 кастр. брыгада скрытна сканцэнтравалася ў раёне вёсак Сутокі, Ходасы, Харкі. 31 кастр. ў 23 гадз стралк. атрады адначасова з пачаткам артпадрыхтоўкі перайшлі ў наступленне. У вулічных баях супраць намнога большых сіл праціўніка яны знішчылі станцыйныя збудаванні, лесапільны з-д, млын, воданапорную вежу, 3 трактары, 4 цыстэрны з гаручым, 10 розных складоў, узарвалі 4 чыг. і 4 шашэйныя масты. Праціўнік страціў у баі 120 чал. забітымі, у партызан 18 чал. былі забіты і 52 паранены. *У. С. Пасэ.*

**ВІЛЕЙСКІ ГІСТОРЫКА-КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ.** Адкрыты 7.5.1985. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, мае 294 экспанаты, пл. 60 м². Матэрыялы аб пачатковым перыядзе вайны, аб удзеле землякоў у абароне Масквы, Ленінграда, Сталінграда і інш., аб узнікненні і разгортванні падполля і партыз. руху ў краі: дакументы ЦК КП(б)Б, лістоўкі, падп. газеты *«Молодёжная правда», «Народный мститель», «Сялянская газета»,* клішэ падп. газ. *«Партизанская правда»,* асабістыя рэчы, прадметы побыту, фатаграфіі партызан, у т. л. Герояў Сав. Саюза А. С. *Азончыка,* А. І. *Валынца,* Ф. Р. *Маркава,* П. М. *Машэрава,* М. А. *Міхайлашава,* сакратара падп. абкома КП(б)Б І. Ф. *Клімава* і інш. Экспануюцца дакументы і фатаграфіі аб злачынствах ням.-фаш. захопнікаў у краі. Аб вызваленні горада і раёна воінамі 35-й гвардз. танк. брыгады і партызанамі брыгады «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага расказваюць карта-схема наступлення сав. войск летам 1944, фатаграфіі, асабістыя рэчы, пісьмы воінаў-вызваліцеляў і партызан, у т. л. Герояў Сав. Саюза А. А. Асланава, В. Ц. *Абухава,* Г. Ф. *Пакроўскага,* землякоў Герояў Сав. Саюза К. М. *Зубовіча,* У. С. *Лаўрыновіча* і інш. *Н. А. Яфімава.*

**ВІЛЕЙСКІ ПАДПОЛЬНЫ АБКОМ КП(б)Б.** Створаны *Цэнтральным Камітэтам КП(б)Б* і працаваў пад яго кіраўніцтвам з 28.5.1943 да пач. ліп. 1944. Дзейнічаў на тэр. Вілейскай вобл. Стварыў *Вілейскі падпольны гарком КП(б)Б,* 20 падп. райкомаў [гл. *Раённыя падпольныя камітэты КП(б)Б*], якія аб'ядноўвалі 76 пярвічных парт. арг-цый, 1366 камуністаў у партыз. фарміраваннях. 17 райкомаў выдавалі газеты (гл. *Друк падпольны*). Кіраваў *Вілейскім партызанскім злучэннем, Браслаўскім патрыятычным падполлем, Вілейска-Куранецкім партыйна-камсамольскім падполлем, Азяраўскім камсамольска-маладзёжным падполлем* і інш.; падп. антыфаш. арг-цыямі. Накіроўваў дзейнасць *Вілейскага падпольнага абкома ЛКСМБ.* Сакратары абкома: І. Ф. *Клімаў,* А. А. *Манахаў* (з вер. 1943); члены: П. А. *Жуковіч* (да 28.6.1944, загінуў), Манахаў, В. А. Цітавец, А. І. *Шаўчэнка.* Базіраваўся ў Нарачанскай пушчы (каля в. Чарэмшыцы Мядзельскага р-на) у *партызанскай брыгадзе імя К. Я. Варашылава.* Друкаваны орган — «Сялянская газета». Выдаваў бюлетэнь са зводкамі Саўінфармбюро, сатырычны плакат, выпускаў лістоўкі і звароты; усяго каля 800 назваў тыражом 120 тыс. экз. Для ўзмацнення парт. кіраўніцтва дзейнасцю падполля і партыз. фарміраванняў, расшырэння паліт.-масавай работы абком КП(б)Б падзяліў тэр. вобласці на 3 зоны, замацаваўшы за кожнай аператыўную групу парт. і камсамольскіх работнікаў на чале з членам абкома. У паўн. зоне групу ўзначальваў Цітавец, у паўд.-ўсх.— Жуковіч, у цэнтр.— Манахаў.

Да стварэння падп. абкома КП(б)Б вялікую ролю ў арганізацыі парт. падполля і партыз. руху на тэр. вобласці сыгралі аператыўная група Вілейскага абкома КП(б)Б на чале з Клімавым, якая базіравалася ў раёне Віцебскіх «варот», з лета 1942 — накіраваныя ЦК КП(б)Б арганізатарскія парт. групы пад кіраўніцтвам П. Ф. Рудава, М. З. Умінскага, Шаўчэнкі і інш. У маі 1943 у вобласць накіравана група адказных арганізатараў абкома КП(б)Б у складзе П. П. Булойчыка, А. І. Доўгага, І. М. *Яўмененкі,* якія сталі сакратарамі падп. райкомаў партыі.

У гонар Вілейскіх падп. абкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, штаба партыз. брыгады імя Варашылава каля в. Чарэмшыцы ў 1980 пастаўлены 2 мемар. знакі. *І. Ф. Клімаў.*

**ВІЛЕЙСКІ ПАДПОЛЬНЫ АБКОМ ЛКСМБ.** Створаны *Цэнтральным Камітэтам ЛКСМБ.* Дзейнічаў з 14.4.1943 да 5.7. 1944 пад кіраўніцтвам ЦК ЛКСМБ і *Вілейскага падпольнага абкома КП(б)Б.* Узначальваў дзейнасць *Вілейскага падпольнага гаркома ЛКСМБ,* 20 падп. райкомаў (гл. *Раённыя падпольныя камітэты ЛКСМБ*), 45 тэр., 217 пярвічных камсам. арг-цый у партыз. фарміраваннях, усяго больш за 5,2 тыс. камсамольцаў. Сакратары абкома: П. М. *Альшанскі* (да 14.9.1943), П. М. *Машэраў* (з 14.9.1943, 1-ы сакратар), В. І. *Шымановіч* (з 1.10. 1943); члены: Альшанскі (з 14.9.1943 нам. сакратара), В. Т. Бацечка, Б. П. Гусеў, С. А. Пранько (усе з 15.4.1943), Я. І. Гуля (з 14.9.1943). У апараце абкома працавала радыстка Г. С. Краўчанка (з 1.10. 1943).

У кастр. 1943 створаны 3 зоны (цэнтр., паўн., паўд.-ўсх.); кіраўнікі: Шымановіч, Альшанскі, Гуля. У ліп.— вер. 1943 на тэр. вобласці работай падп. камсам. арганаў кіраваў сакратар ЦК ЛКСМБ Ф. А. *Сурганаў,* у кастр.— снеж. 1942 і студз.— лютым 1943 — інструктар ЦК ВЛКСМ А. Я. Пажарская, інструктары ЦК ЛКСМБ Л. А. Манахава і А. П. Пугачова, пам. упаўнаважанага ЦК ЛКСМБ па Вілейскай вобл. А. А. Васільева, па раёнах — Бацечка, Г. І. Кіся-




Помнік у гонар Вілейскіх падпольных абкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, штаба партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава каля в. Чарэмшыцы Мядзельскага раёна.

лёва, С. Г. Насекін-Цэнскі, В. М. Пелюхаў, М. А. Пляхневіч.

Асноўная база абкома знаходзілася ў Нарачанскай пушчы паміж воз. Вішнеўскае і паўд. часткай воз. Нарач. Друкаваныя органы — газ. «Молодёжная правда» і бюлетэнь «Молодёжь Белоруссии в борьбе за Родину».

*Р. М. Шавяла.*

**ВІЛЕ́ЙСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ ГАРКО́М КП(б)Б.** Дзейнічаў з 12.4 да 2.7.1944 пад кіраўніцтвам *Вілейскага падпольнага абкома КП(б)Б*. Умацоўваў дзеючыя і ствараў новыя падп. арг-цыі і групы, праводзіў паліт.-масавую работу сярод насельніцтва Вілейкі і навакольных нас. пунктаў. Узначальваў *Вілейска-Куранецкае партыйна-камсамольскае падполле*. Накіроўваў дзейнасць *Вілейскага падпольнага гаркома ЛКСМБ*. Сакратар гаркома К. І. Кавалёва; члены: А. І. *Валынец* [адначасова з кастр. 1943 упаўнаважаны падп. абкома КП(б)Б па г. Вілейка], П. І. Голаў.




Базіраваўся ў *партызанскай брыгадзе «За Савецкую Беларусь»*.

У гонар Вілейскіх падп. гаркомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, Куранецкіх падп. райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, партыз. брыгад імя Даватара і «За Савецкую Беларусь» недалёка ад в. Ляскі Вілейскага р-на на месцы іх базіравання ў 1970 пастаўлены помнік.

*А. С. Панамарова.*

**ВІЛЕ́ЙСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ ГАРКО́М ЛКСМБ.** Дзейнічаў са жн. 1943 да 2.7.1944 пад кіраўніцтвам *Вілейскага падпольнага абкома ЛКСМБ* і *Вілейскага падпольнага гаркома КП(б)Б*. Кіраваў барацьбой моладзі Вілейкі супраць акупантаў (гл. *Вілейска-Куранецкае партыйна-камсамольскае падполле*). Сакратары гаркома: Н. С. Бельская, М. Н. Валынец (сакратар па прапагандзе); члены: У. І. Ількевіч, М. К. Каркоцкі, Р. С. Усціновіч (усе з 17.4.1944). Асн. база знаходзілася ў Куранецкім р-не ў *партызанскай брыгадзе «За Савецкую Беларусь»*.

Да стварэння падп. гаркома барацьбой камсамольцаў і моладзі горада супраць акупантаў кіравалі былы інструктар Куранецкага райкома камсамола М. М. Мацюкевіч, камсамольцы Л. В. Чыжэўская, І. І. Баслык і інш.

*Р. М. Шавяла.*

**ВІЛЕ́НСКІЯ ВАЙСКО́ВЫЯ ЗЛУЧЭ́ННІ І ЧА́СЦІ.** За вызваленне г. Вільнюса (13.7.1944) у ходзе *Вільнюскай аперацыі 1944* найменне «Віленскіх» паводле загада ВГК атрымалі 20 злучэнняў і часцей 5-й, 5-й гвардз. танкавай, 1-й паветр. армій і 3-га гвардз. механізаванага корпуса 3-га Бел. фронту.

Часці і злучэнні, якім нададзена найменне «Віленскіх»: 144-я стралк. дывізія (палк. А. А. Данец), 7-я гвардз. лёгкая арт. брыгада (палк. Ф. К. Жаўноў), 8-я гвардз. гаўбічная арт. брыгада (палк. Дз. Я. Старынін), 22-я гвардз. пушачная арт. брыгада (палк. П. І. Рабчук), 376-ы гвардз. цяжкі самаходны арт. полк (падпалк. Ц. Я. Карташоў), 146-ы (падпалк. А. П. Мінько), 516-ы (маёр Ф. Х. Ірмашаў) і 1062-і (маёр А. В. Шаронаў) зенітныя арт. палкі, 32-і (маёр У. А. Луцкі), 63-і (падпалк. Я. М. Гарбацюк) і 66-ы (падпалк. Р. А. Пуставойт) гвардз. знішчальныя авіяпалкі, 956-ы штурмавы авіяполк (маёр А. В. Мільто), 3-і транспартны авіяполк ГПФ (капітан Р. А. Таран), 13-ы пагранічны полк войск НКУС (маёр К. П. Пятрэнка), 24-ы (маёр А. В. Дворкін) і 165-ы (маёр І. М. Іванчанка) асобныя мостабудаўнічыя батальёны, 34-ы асобны дарожна-будаўнічы батальён (маёр А. С. Волкаў), 377-ы асобны матарызаваны інжынерны батальён (маёр Г. А. Яромін), 144-ы (капітан У. Ц. Цакулаў) і 281-ы (маёр У. Р. Арлоў) асобныя аўтатранспартныя батальёны. Войскам, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Вільнюса, загадам ВГК ад 13.7.1944 аб'яўлена падзяка, у Маскве дадзены салют 24 арт. залпамі з 324 гармат.

*М. І. Камінскі.*

**ВІ́ЛЬНЮСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1944,** наступальная аперацыя войск 3-га Бел. фронту (ген. арміі І. Д. Чарняхоўскі) 5—20.7.1944; састаўная частка *Беларускай аперацыі 1944*.

У В. а. ўдзельнічалі арміі: 11-я гвардз. (ген.-палк. К. М. *Галіцкі*), 5-я (ген.-лейт., з 15.7.1944 ген.-палк. М. І. *Крылоў*), 31-я (ген.-лейт., з 15.7.1944 ген.-палк. В. В. Глаголеў), 39-я (ген.-лейт. І. І. *Люднікаў*), 33-я (ген.-лейт. С. І. Марозаў), 5-я гвардз. танк. (маршал бранятанк. войск П. А. *Ротмістраў*), 1-я паветр. (ген.-палк. авіяцыі Ц. Ц. *Хрукін*), 3-і гвардз. механізаваны корпус (ген.-лейт. танк. войск В. Ц. *Абухаў*), 3-і гвардз. кав. корпус (ген.-лейт. М. С. *Асліноўскі*). Войскі 3-га Бел. фронту, якія ўдзельнічалі ў *Мінскай аперацыі 1944*, у адпаведнасці з дырэктывай Стаўкі ВГК ад 4.7.1944 атрымалі задачу без аператыўнай паўзы гал. сіламі наступаць у агульным напрамку на Вільнюс, Каўнас і не пазней 10—12 ліп. вызваліць Вільнюс і Ліду, у далейшым фарсіраваць р. Нёман і захапіць плацдармы на яе беразе.

Наступленне сав. войск развівалася імкліва. Праціўнік не меў суцэльнага фронту абароны і аказваў процідзеянне рэшткамі разбітых часцей і асобнымі злучэннямі, якія падышлі. Ням.-фаш. камандаванне спадзявалася затрымаць сав. войскі на загадзя падрыхтаваным рубяжы Даўгаўпілс — Вільнюс — Ліда, дзе сканцэнтроўвала часці 3-й танк. і 4-й армій, што адступалі, групы армій «Цэнтр». Сав. войскі наступалі ў напрамках: на Вільнюс — часці 5-й гвардз. танк. і 5-й армій, 3-і гвардз. механіз. корпус; праз Ашмяны на Алітус — 11-я гвардз. армія і 2-і гвардз. танк. корпус; на Ліду — 31-я армія і 3-і гвардз. кав. корпус; на Каўнас — 39-я армія. У ходзе наступлення часці 3-га гвардз. танк. корпуса 5-й гвардз. танк. арміі 5 ліп. вызвалілі Валожын, часці 11-й гвардз. арміі, 5-й гвардз. танк. арміі і конна-механіз. групы, пераадольваючы ўпартае супраціўленне праціўніка, 5 ліп. вызвалілі Маладзечна, часці 5-й гвардз. танк. арміі 7 ліп.— Гальшаны і Ашмяны, часці 31-й арміі 6 ліп.— Івянец, 3-га гвардз. кав. корпуса 7 ліп.— Юрацішкі, 8 ліп.— Іўе, 9 ліп.— Ліду, 13 ліп. завязалі баі за Гродна. Асабліва моцную групоўку праціўнік стварыў у раёне Вільнюса (гарнізон 12—15 тыс. чал.), куды з інш. участкаў фронту перакідваліся дадаткова 6 свежых злучэнняў. Каб апярэдзіць праціўніка, камандаванне 3-га Бел. фронту 4 ліп. павярнула 5-ю гвардз. танк. армію на Вільнюс. 7—9 ліп. войскі 5-й гвардз. танк. арміі, 3-га гвардз. механізаванага корпуса, 5-й арміі акружылі варожы гарнізон яшчэ да падыходу рэзерваў. Праціўніку, які меў сілы да 150 танкаў і штурмавых гармат, полк мотапяхоты, не ўдалося дэблакіраваць акружаную групоўку. 13 ліп. сав. войскі вызвалілі Вільнюс. У час баёў за Вільнюс войскі 11-й гвардз. і 31-й армій выйшлі да р. Нёман, 15 ліп. авалодалі плацдармамі на яе левым беразе, на фронце да 70 км фарсіравалі Нёман у раёне Алітуса і на Пд ад яго. 16 ліп. вызвалена правабярэжная ч. Гродна (31-я армія і 3-і гвардз. кав. корпус

3-га Бел. фронту, 50-я армія 2-га Бел. фронту), 24 ліп.— занёманская ч. горада (гл. таксама *Беластоцкая аперацыя 1944*). Вялікую ролю пры вызваленні Вільнюса і фарсіраванні Нёмана адыграла 1-я паветр. армія, у складзе якой дзейнічаў французскі знішчальны авіяполк «Нармандыя» (гл. *«Нармандыя — Нёман»*). Да 20 ліп. сав. войскі 3-га Бел. фронту прасунуліся на глыбіню да 210 км. У ходзе аперацыі сав. войскі цесна ўзаемадзейнічалі з бел. і літоўскімі партызанамі. У выніку В. а. створаны спрыяльныя ўмовы для выхаду войск 3-га Бел. фронту да граніц Усх. Прусіі. 20 часцям і злучэнням фронту прысвоена ганаровае найменне «Віленскіх», 13 — «Маладзечанскіх», 4 — «Лідскіх». *В. С. Паваліхіна.*

**ВІНАГРА́ДАВА** Аляксандра Сцяпанаўна (падп. псеўд. Каця; 2.8.1925, в. Курбатава, Чэрнскі р-н Тульскай вобл.— крас. 1943), сав. разведчыца, удзельнік *Віцебскага партыйна-камсамольскага падполля.* Чл. ВЛКСМ. Скончыла курсы радыстаў і ў вер. 1942 у складзе армейскай разведгрупы П. А. Крылатых у якасці радысткі-разведчыцы накіравана ў акупіраваны Віцебск. Наладзіла сувязь з кіраўнікамі падп. груп М. Я. Нагібавым і П. С. Смірновым, далучыла да разведвальнай работы камсамольцаў Я. Баранава, М. і С. Бондараў, Н. Ганчарову, А. і Г. Скарабагатавых, Г. і Н. Трызна, П. Улюценка і інш. Сав. камандаванне атрымлівала ад яе важную інфармацыю аб перамяшчэнні варожых войск і баявой тэхнікі праз чыг. ст. Віцебск, дзякуючы В. сав. авіяцыя нсаднойчы наносіла бомбавыя ўдары па ваен. аб'ектах праціўніка. У лют. 1943 арыштавана і пасля катаванняў расстраляна. У Віцебску імем В. названа вуліца; на доме, дзе яна жыла, устаноўлена мемар. дошка.

**ВІТАВА,** вёска на тэр. Хоцімскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі. Знаходзілася за 2,5 км на З ад в. Ліпаўка Велікаліпаўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 107 чал. У маі 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 9 жыхароў, вёску (21 двор) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1975 на месцы вёскі пастаўлены мемар. знак.

**ВІХНІН** Залман Давыдавіч (ліп. 1909, в. Шчадрын Жлобінскага р-на — 26.9.1943), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1938. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. З лют. 1943 на Ленінградскім і Цэнтр. франтах, удзельнік Курскай бітвы. Агітатар палка капітан В. вызначыўся пры вызваленні Камарынскага р-на. 25.9. 1943 узначаліў групу прыкрыцця, якая фарсіравала Дняпро і забяспечыла пераправу 2 батальёнаў пяхоты. Загінуў у баі за вызваленне в. Бярозкі і Новая Ёлча Брагінскага р-на. Пахаваны ў Чарнігаве ў брацкай магіле. Яго імем названа вуліца ў в. Шчадрын Жлобінскага р-на.


З. Д. Віхнін.

**«ВІХО́Р»** («Wirbelwind»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партызан і насельніцтва ў Пухавіцкім р-не (у ваколіцах в. Хідра) у канцы крас. 1944. Праводзілася сіламі аховы тылу групы армій «Цэнтр». Карнікі знішчылі больш за 500 сав. грамадзян і больш за 1000 чал. захапілі для вывазу ў Германію і для адпраўкі ў спец. працоўныя лагеры.

**ВІЦЕБСК,** горад, цэнтр Віцебскай вобл., на р. Зах. Дзвіна пры ўпадзенні ў яе Віцьбы і Лучосы. За 263 км на ПнУ ад Мінска. Эканамічны і культурны цэнтр, вузел чыгунак (на Маскву, Ленінград, Оршу, Полацк) і аўтамабільных дарог. Рачны порт на Зах. Дзвіне. Аэрапорт. Падзяляецца на 3 раёны: Кастрычніцкі, Першамайскі, Чыгуначны. У 1940 у горадзе 180 тыс. жыхароў. З 25.6.1941 быў падвергнуты масіраваным налётам ням.-фаш. авіяцыі. 22.6.1941 Віцебскі абком КП(б)Б правёў экстранную нараду кіруючых парт., сав., камсам. работнікаў аб перабудове ўсёй работы ў адпаведнасці з задачамі ваен. часу. Праведзены мабілізацыя ў Чырв. Армію, эвакуацыя на У насельніцтва, вывезена абсталяванне з-даў станкабудаўнічага імя Кірава і імя Камінтэрна, іголкавага, гарбарнага імя М. А. Еўсцігнеева, фабрык акулярнай, ільнопрадзільнай «Дзвіна», панчошна-трыкатажнай імя КІМ, швейнай «Сцяг індустрыялізацыі» і інш. Усяго з В. і вобласці эвакуіравана абсталяванне 37 буйных прамысловых прадпрыемстваў (2500 чыг. вагонаў). Былі сфарміраваны *Віцебскае народнае апалчэнне 1941*, дружыны процірапаветр. абароны, ствараліся абарончыя рубяжы. У адпаведнасці з рашэннем бюро абкома КП(б)Б для арганізацыі падполля ў В. пакінута больш за 60 чал. В. абаранялі з 5 да 11 ліп. злучэнні 22-й (ген.-лейт. П. А. Ершакоў), 20-й (ген.-лейт. П. А. *Курачкін*), 19-й (ген.-лейт. І. С. Конеў) армій Зах. фронту. З мэтай затрымаць наступленне праціўніка на віцебскім напрамку 6—10 ліп. з раёна на ПдЗ ад В. быў ажыццёўлены контрудар сіламі 20-й арміі па 3-й танк. групе ням.-фаш. войск (гл. *Лепельскі контрудар 1941*). На рубяжы вёсак Гняздзілавічы — Александрова абарону трымала 153-я стралк. дывізія (палк. М. А. *Гаген*). 9 ліп. ням. войскі ўварваліся ў горад. 10 ліп. 220-я мотастралк. дывізія 19-й арміі двойчы выбівала праціўніка з горада; разам з войскамі В. абаранялі батальёны нар. апалчэння (гл. *Віцебска абарона 1941*). 11.7.1941 ням.-фаш. войскі акупіравалі В. Акупанты стварылі ў горадзе 5 лагераў смерці. Толькі за першыя 3 месяцы яны загубілі ў горадзе больш за 20 тыс. чал., за перыяд акупацыі ў В. і раёне — 146 920 чал., у т. л. ў лагерах смерці ў горадзе і наваколлі — 76 тыс. ваеннапалонных і каля 62 тыс. сав. грамадзян, на тэр. Віцебскай вобл.— каля 560 тыс. чал., на Віцебшчыне загінуў кожны трэці жыхар. Ням.-фаш. захопнікі знішчылі ў В. ўсе прадпрыемствы і культурна-асветныя ўстановы, збудаванні чыгункі, віядукі, камунальную гаспадарку, 93 % жылога фонду. У горадзе з ліп. 1941 дзейнічала *Віцебскае партыйна-камсамольскае падполле,* у якім было каля 1.5 тыс. актыўных членаў, што ўваходзілі ў 66 падп. груп. Кіраўніцтва падполлем і партыз. рухам на тэр. вобласці і ў В. ажыццяўляў *Віцебскі падпольны абком КП(б)Б,* дзейнічалі *Віцебскі падпольны гарком КП(б)Б, Віцебскі падпольны абком ЛКСМБ, Віцебскі падпольны гарком ЛКСМБ,* на тэр. вобласці (у межах даваеннага адм.-тэр. падзелу) — 20 падп. райкомаў КП(б)Б і 20 падпольных райкомаў ЛКСМБ, у т. л. Віцебскія падп. райкомы КП(б)Б (31.5.1942—1.11.1943) і ЛКСМБ (10.5.1942—11.11.1943), выдавалася падпольная газ. *«За Родину»* Першыя ў вобласці партыз. атрады арганізавалі ў ліп. 1941 М. П. *Шмыроў* і Д. Ф. *Райцаў* у Суражскім р-не. Усяго на тэр. Віцебскай вобл. барацьбу супраць ням.-фаш. акупантаў у розны час вялі 39 партыз. брыгад, 2 палкі, 34 асобна дзеючыя атрады. Да канца 1943 пад кантролем партызан знаходзілася 2/3 тэр. вобласці, поўнасцю вызвалена каля 1/4 тэр. вобласці, створаны *Полацка-Лепельская партызанская зона* і *Расонска-Асвейская партызанская зона, Суражская партызанская зона,* дзе была адноўлена Савецкая ўлада. У выніку наступальных аперацый на віцебскім напрамку летам і восенню 1943 часці Чырв. Арміі выйшлі на подступы да горада. Да пач. 1944 у В. засталося 15 тыс. жыхароў. У лют. 1944 гітлераўцы гвалтоўна выгналі насельніцтва з В., 12 тыс. яго жыхароў зняволілі ў рабочыя лагеры, горад абязлюдзеў. Ням.-фаш. войскі ператварылі горад у добра ўмацаваны раён, камандаванне вермахта абвясціла яго крэпасцю. У дзень вызвалення ў В. было 118 жыхароў. Вызвалены 26.6.1944 воінамі 145-й (ген.-маёр П. А. Дзібрава), 204-й (палк. К. М. Байдак) стралк. дывізій, 155-га ўмацаванага раёна (палк. І. І. Саўчанка) 92-га стралк. корпуса, 105-га асобнага танк. палка (маёр Ф. А. Зайцаў) 43-й арміі 1-га Прыбалт. фронту,

158-й (Дз. І. Ганчароў), 164-й (палк. Р. І. Сініцын), 262-й (ген.-маёр З. М. Усачоў) стралк. дывізій 84-га стралк. корпуса, 957-га самаходнага арт. палка (палк. У. Ф. Кузняцоў), 139-й армейскай гарматнай арт. брыгады (палк. Дз. Г. Лук'янаў) 39-й арміі 3-га Бел. фронту пры падтрымцы сіл 1-й паветр. арміі ў ходзе *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944.* 62 злучэнні і часці атрымалі ганаровыя найменні «Віцебскіх» (гл. *Віцебскія вайсковыя злучэнні і часці*). У *віцебскім «катле»* былі разгромлены 5 дывізій праціўніка. У горадзе 2 ваен. могілак, брацкія магілы сав. воінаў, партызан, магілы падпольшчыкаў, ахвяр фашызму, невядомага салдата, на якіх пастаўлены помнікі; мемар. комплекс у гонар сав. воінаў-вызваліцеляў, партызан і падпольшчыкаў Віцебшчыны; помнікі віцебскім падпольшчыкам, вучням сярэдняй школы № 9, супрацоўнікам ветэрынарнага ін-та, рабочым і служачым ф-кі «Сцяг індустрыялізацыі», чыгуначнікам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну; помнік на месцы лагера смерці; памятны знак на месцы пакарання смерцю падпольшчыкаў; помнікі Героям Сав. Саюза П. М. *Машэраву*, У. І. *Свідзінскаму*, В. З. *Харужай*, М. П. *Шмырову;* устаноўлены мемар. дошкі на дамах, дзе былі явачныя кватэры падпольшчыкаў, загінуўшым рабочым і служачым станкабудаўнічага з-да імя Кірава, вучням-падпольшчыкам, кіраўнікам парт.-камсам. падполля, землякам. Працуюць *Віцебскі абласны краязнаўчы музей, Віцебскі абласны музей Героя Савецкага Саюза М. П. Шмырова.*

*В. С. Паваліхіна.*

**ВІЦЕБСКА АБАРОНА 1941.** Вялася 5—11 ліп. злучэннямі 22-й (ген.-лейт. П. А. Ершакоў), 20-й (ген.-лейт. П. А. *Курачкін*), 19-й (ген.-лейт. І. С. *Конеў*) армій Зах. фронту і апалчэнцамі Віцебска. Каб стрымаць ворага на Віцебскім напрамку, 5-ы (ген.-маёр І. П. Аляксеенка) і 7-ы (ген.-маёр В. І. Вінаградаў) механіз. карпусы 20-й арміі 6 ліп. нанеслі контрудар у напрамку Сянно — Лепель па 3-й танк. групе ворага (гл. *Лепельскі контрудар 1941*). 153-я стралк. дывізія (палк. М. А. *Гаген*) з 5 ліп. вяла баі на рубяжы в. Гняздзілавічы — усх. бераг воз. Саро — вёскі Ліпна — Парнева — Машканы — Александрова. За дзень дывізія адбівала па 5—6 варожых атак і сама пераходзіла ў наступленне. 6—9 ліп. вораг беспаспяхова атакаваў пазіцыі дывізіі, пасля перанёс дзеянні на Пн і ПнЗ і ў абход праўваўся да Віцебска (9 ліп.). Разам з сав. войскамі горад абаранялі батальёны нар. апалчэння (гл. *Віцебскае народнае апалчэнне 1941*). 10 ліп. 220-я мотастралк. дывізія 19-й арміі двойчы выбівала праціўніка з усх. часткі горада. Выкарыстаўшы перавагу ў сілах, ням.-фаш. войскі 11 ліп. захапілі Віцебск. В. а. затрымала прасоўванне ворага на У, прычыніла яму значныя страты.

*М. К. Андрушчанка.*

**ВІЦЕБСКА-АРШАНСКАЯ АПЕРАЦЫЯ 1944,** наступальная аперацыя войск 1-га Прыбалт. (ген. арміі І. Х. *Баграмян*) і 3-га Бел. (ген.-палк., з 26.6.1944 ген. арміі І. Д. *Чарняхоўскі*) франтоў 23—28 чэрв., састаўная частка *Беларускай аперацыі 1944.* Мэта — разгром левага крыла (3-я танк. і 4-я палявая арміі) ням.-фаш. групы армій «Цэнтр» (ген.-фельдмаршал Э. Буш).




Удзельнічалі арміі: 6-я гв. (ген.-лейт. І. М. *Чысцякоў*), 43-я (ген.-лейт. А. П. *Белабарадаў*), 39-я (ген.-лейт. І. І. Люднікаў), 5-я (ген.-лейт. М. І. *Крылоў*), 11-я гвардз. (ген.-лейт. К. М. Галіцкі), 31-я (ген.-лейт. В. В. Глаголеў), 5-я гвардз. танк. (маршал бранятанк. войск П. А. *Ротмістраў*), 1-ы танк. корпус (ген.-лейт. В. В. Буткоў). Дзеянні сухапутных войск падтрымлівалі 3-я (ген.-лейт. М. П. *Папівін*) і 1-я (ген.-лейт. М. М. *Громаў*) паветр. арміі. Каардынаваў дзеянні франтоў Маршал Сав. Саюза А. М. *Васілеўскі*. Войскам ставілася задача разграміць групоўкі праціўніка: віцебска-лепельскую і авалодаць раёнам Лепель — Чашнікі; віцебскую і вызваліць Віцебск; аршанскую, вызваліць Оршу і выйсці да р. Бярэзіна. Нямецкае камандаванне надавала выключнае значэнне абароне Віцебска-Аршанскага р-на. Тут былі створаны магутны абарончы рубеж глыбінёю 20—45 км пад умоўнай назвай «Пантэра» (ч. *«Усходняга вала»*) з выкарыстаннем умоў лясіста-балоцістай мясцовасці і шматлікіх рэк з шырокімі забалочанымі поймамі, у вузлы абароны былі ператвораны Віцебск, Орша, інш. населеныя пункты. Напярэдадні наступлення гал. сіл франтоў 22 чэрв. праведзена разведка боем, у ноч на 23 чэрв.— папярэдняя авіяцыйная падрыхтоўка.

Раніцай 23 чэрв. пасля арт. падрыхтоўкі пачалося наступленне. Войскі 6-й гвардз. і 43-й армій 1-га Прыбалт. фронту прарвалі абарону праціўніка на ПнЗ ад Віцебска, 23 чэрв. вызвалілі Шуміліна, 24 чэрв. каля Бешанковіч фарсіравалі Зах. Дзвіну, стварылі на левым яе беразе некалькі плацдармаў і, пашыраючы іх, 25 чэрв. вызвалілі Бешанковічы. Войскі 39-й і 5-й армій 3-га Бел. фронту прарвалі абарону на ПдУ ад Віцебска. У ноч на 25 чэрв. войскі сумежных 43-й і 39-й армій злучыліся каля в. Гняздзілавічы (цяпер Гняздзілава), утварыўся т. зв. віцебскі «кацёл», у які трапіла 5 дывізій 3-й ням. танк. арміі; да 27 чэрв. яны былі разгромлены. 26 чэрв. вызвалены Віцебск. Адначасова войскі левага крыла 3-га Бел. фронту — 11-я гвардз. і 31-я арміі — пераадольвалі ўпартае супраціўленне ворага на аршанскім напрамку, у ходзе наступлення 26 чэрв. вызвалілі Дуброўна. У паласе дзеянняў 5-й арміі ў прарыў фронту праціўніка былі ўведзены конна-механізаваная група (ген.-лейт. М. С. *Аслікоўскі*) у раёне Багушэўска (25 чэрв. вызвалены Багушэўск і Сянно) і 5-я гвардз. танк. армія, у раёне в. Клюкаўка — 2-і гвардз. танк. корпус (ген.-маёр А. С. *Бурдзейны*). 26 чэрв. 5-я гвардз. танк. армія і 2-і гвардз. танк. корпус перарэзалі чыгунку і шашу Масква — Мінск у раёне Пагост — Талачын (26 чэрв. вызвалены Талачын), чым стварылі пагрозу акружэння аршанскай групоўкі праціўніка. 27 чэрв. 11-я гвардз. і 31-я арміі вызвалілі Оршу. Працягваючы наступленне, сав. войскі 27 чэрв. вызвалілі Чашнікі. Да 28 чэрв. войскі 1-га Прыбалт. фронту выйшлі на рубеж за 30 км на ПдУ ад Полацка — Лепеля (28 чэрв. вызвалілі Лепель). Войскі 3-га Бел. фронту выйшлі да р. Бярэзіна на Пн ад Барысава. У выніку аперацыі сав. войскі прасунуліся на 80—150 км, стварылі ўмовы для паспяховага наступлення ў напрамках на Мінск і на тэр. Прыбалтыкі. У аперацыі ўдзельнічалі партыз. брыгады 2-я імя К. С. Заслонава, 1-я Смаленская і інш. 62 злучэнням і часцям, якія вызначыліся ў аперацыі, прысвоены

ганаровыя найменні «Віцебскіх», 41 — «Аршанскіх». *У. І. Вышынскі.*

**ВІЦЕБСКАЕ НАРО́ДНАЕ АПАЛЧЭ́ННЕ 1941.** Сфарміравана 5—6.7.1941 паводле рашэння Віцебскага абкома КП(б)Б у адпаведнасці з дырэктывай ЦК КП(б)Б і СНК БССР ад 30.6. 1941. Складалася з 4 батальёнаў: Асаавіяхіма, Кастрычніцкага, Першамайскага, Чыгуначнага; налічвала 2 тыс. чал. 9—11 ліп. апалчэнцы разам з войскамі Чырвонай Арміі абаранялі Віцебск. Батальён нар. апалчэння Першамайскага р-на (камандзір А. А. *Манахаў,* камісар Ф. Н. Нагорны) уступіў у бой 8 ліп. 1-я рота батальёна (камандзір А. У. Юшкевіч) 9 ліп. разам з воінамі 153-й стралк. дывізіі вяла бой у цэнтры горада, утрымлівала ўчастак на левым беразе Зах. Дзвіны, адбівала неаднаразовыя спробы гітлераўцаў пераправіцца цераз раку. Батальён нар. апалчэння Чыгуначнага р-на [900 чал.— рабочыя станкабудаўнічых з-даў, чыг. вузла, студэнты і выкладчыкі, служачыя; узначальвалі сакратары Чыгуначнага РК КП(б)Б г. Віцебска — камандзір Б. К. Сямёнаў, камісар І. Р. Грыгор'еў] вёў абарончыя баі ў раёне воз. Лосвіда, у напрамку Суражскай шашы. 9 ліп. пасля 5-гадзіннага бою апалчэнцы былі вымушаны адысці да Віцебска, дзе працягвалі змагацца з ворагам. Батальён Асаавіяхіма (450 чал., пераважна камуністы і камсамольцы; камандзір Клейнаў, камісар Р. С. Усаценка) трымаў абарону на ўчастку ўздоўж берага Зах. Дзвіны ў раёне Мазурына. 9 ліп. апалчэнцы да позняга вечара вялі бой супраць ням.-фаш. падраздзяленняў, 10 ліп. раніцай разам з чырвонаармейцамі знішчылі да 200 гітлераўцаў, якія перапраўляліся цераз Зах. Дзвіну, 10 ліп. вялі баі на паўн.-ўсх. ускраіне Віцебска. 11 ліп. 1-я рота батальёна амаль поўнасцю загінула ў няроўным баі ў раёне в. Журжава. Жорсткія баі апалчэнцаў супраць ворага вяліся на тэр. прадпрыемстваў, вуліцах горада, у раёне Смаленскай шашы, інш. месцах. 11 ліп. апалчэнцы пакінулі Віцебск разам з часцямі Чырвонай Арміі, многія ўліліся ў яе рады, частка — у рады партызан і падпольшчыкаў.

*М. К. Андрушчанка.*

**ВІЦЕБСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала ў Віцебску і прыгарадзе з ліп. 1941 да чэрв. 1944 пад кіраўніцтвам *Віцебскага падпольнага абкома КП(б)Б* і *Віцебскага падпольнага гаркома КП(б)Б.* Барацьбу камсамольцаў і моладзі ўзначальвалі *Віцебскі падпольны абком ЛКСМБ* і *Віцебскі падпольны гарком ЛКСМБ.* Каля 1500 чал., 66 падп. груп. У Віцебску для арг-цыі нелегальнай работы было пакінута парт. і камсам. органамі больш за 60 камуністаў, 150 камсамольцаў, 12 работнікаў міліцыі. Многія падп. групы ў першы год акупацыі былі створаны патрыётамі самастойна. Аднымі з першых у ліп.— жн. 1941 пачалі барацьбу з акупантамі падп. групы К. С. Акаловіч, А. Я. *Белахвосцікава,* В. А. *Вярбіцкага,* У. А. Казлоўскага, А. Г. Канаплёва (пазней Л. Дз. Бярозкінай), В. С. Кулагінай, П. К. Ляхоўскага, Ф. К. Мехава і А. А. Гагулі, М. Я. Нагібава, П. С. Смірнова, Е. С. Спірыдонавай, В. Дз. Шалуха, дыверсійная група В. І. Кірыленкі і інш. Нелегальныя групы ўзніклі на чыг. вузле, гар. электрастанцыі, вузле сувязі, на чэпінскім лесаскладзе, сярод мед. работнікаў. Да канца 1941 барацьбу супраць акупантаў у горадзе вялі больш за 20 груп. Падпольшчыкі праводзілі антыфаш. агітацыю сярод насельніцтва, распаўсюджвалі лістоўкі, рабілі дыверсіі на ваен. аб'ектах, здабывалі зброю, узрыўчатку, боепрыпасы, вялі разведку, арганізоўвалі ўцёкі ваеннапалонных і выводзілі іх з горада. Зімой 1941—42 з лагера ваеннапалонных, размешчанага на тэр. былога 5-га чыг. палка, з дапамогай падпольшчыкаў уцяклі каля 3 тыс. ваеннапалонных. Зімой — вясной 1942 пачалі дзейнічаць падп. групы В. М. Арлоўскага, І. А. Бекішава, Г. К. Грабяньковай, В. М. Дзянісава, М. А. Журынскай, Т. А. Ламаносенка, А. І. Ліпцы, Т. А. Марудава, А. А. Сакаловай, сясцёр Саладухіных і інш., з восені 1942 — падп. групы І. С. Вялава, М. А. Ляхоўскага, М. К. Свечкінай. У 1942 у Віцебску дзейнічала 56 груп, многія падтрымлівалі паміж сабой цесную сувязь.

Гарадское падполле рабіла вял. ўплыў на стварэнне і рост нелегальных арг-цый у прыгарадных населеных пунктах. Тут дзейнічалі падп. групы В. А. Азеуша, З. Я. Гваздзёвай, П. П. Грунтова, М. І. Еўдакімава, Д. І. Земляковай, З. Ф. Кочатавай, В. С. Кулагінай, П. К. Ляхоўскага — А. В. Міхайлоўскай — Р. М. Гіро, І. А. Сідарэнкі-Пабудзея і інш. У вер. 1942 для ўзмацнення парт. кіраўніцтва падполлем у Віцебск пасланa В. З. *Харужая,* якая ўзначаліла падп. групу, т. зв. падп. партцэнтр. 7.4.1943 Віцебскі абком КП(б)Б прыняў рашэнне аб стварэнні Віцебскага падп. гаркома КП(б)Б. Гарком знаходзіўся ў размяшчэнні *партызанскай брыгады 1-й Віцебскай,* падтрымліваў радыёсувязь з ЦК КП(б)Б, Віцебскім абкомам КП(б)Б. Многія падп. групы праз сувязных дастаўлялі ў гарком справаздачы аб сваёй рабоце, разведданыя, атрымлівалі газеты, лістоўкі, боепрыпасы. Падпольшчыкі мелі больш як 50 канспіратыўных кватэр і явак, у некаторых з іх хавалі зброю, боепрыпасы, літаратуру, прымалі па радыё зводкі Саўінфармбюро. Нелегальныя кватэры знаходзіліся ў дамах патрыётаў Враб'ёвых, П. І. Гаўберг-Івановай, М. К. Оскер, А. С. Стаяковай, сям'і Свечкіных, сясцёр Саладухіных, Я. І. Тычынінай і інш. Са стварэннем у лют. 1942 *віцебскіх «варот»* была наладжана добрая сувязь з Вял. зямлёй. На акупіраваную тэр. былі закінуты шматлікія спецгрупы з радыёстанцыямі: А. П. *Максіменкі,* М. Р. Яфімава («Армейца»), Ю. С. Рудакова («Жоржа», «Ягора»), М. І. Кавалёва, П. В. Буткевіча, П. А. Крылатых і інш. У горадзе працавалі разведгрупы «Іспалін» і «Макс». Падпольшчыкі наладзілі з імі сувязь, пераймалі ў іх формы і метады канспіратыўнай работы, атрымлівалі звесткі пра становішча на франтах і ў сав. тыле. Добра ведаючы мясцовыя ўмовы і акупацыйны рэжым, дапамагалі спец. групам выконваць заданні камандавання Чырв. Арміі. У барацьбе супраць акупантаў дапамогу падпольшчыкам аказвалі ням. і чэшскія антыфашысты. Група Кочатавай пераправіла да партызан дэшыфравальшчыка ням. радыёразведкі чэха І. Лойду, які паведаміў камандаванню Чырв. Арміі каштоўныя звесткі. Антыфашысты з аховы лагера ваеннапалонных у 5-м чыг. палку паведамілі групе Б. С. Шарэнды патрэбныя звесткі, дапамагалі выводзіць з лагера ваеннапалонных. Падпольная група Шалуха супрацоўнічала з ням. антыфашыстамі В. Крэўзігерам, В. Шмокам, Ф. Шнайдэрам. Працуючы ў авіяцыйных майстэрнях, яны вялі разведку, рабілі дыверсіі. Віцебскім падпольшчыкам дапамагаў ням. пісьменнік-камуніст П. Кёрнер-Шрадэр (К. Шрадэр), мабілізаваны ў 1939 у войскі вермахта. Ён перадаваў партызанам зброю, боепрыпасы, дакументы, харчы. У канцы 1942 — пач. 1943 патрыёты правялі шэраг буйных дыверсій у горадзе і прылеглых раёнах, на чыгунцы і іншых аб'ектах праціўніка. Быў знішчаны рэдактар прафашысцкай газеты, узарваны 7 эшалонаў, зроблены выбухі ў будынку гар. паліцыі, у клубе лётчыкаў на аэрадроме, выкліканы пажар на хлебазаводзе і інш. З лют. да ліст. 1943 кожныя 3 дні ў горадзе адбываліся дыверсіі або тэрарыстычныя акты. Падпольшчыкі горада знаходзіліся ў цесным баявым узаемадзеянні з партызанамі, якія забяспечвалі патрыётаў узрыўчаткай, мінамі, лістоўкамі, газетамі. Падпольшчыкі здабывалі для іх зброю, боепрыпасы, разведінфармацыю, медыкаменты, мед. інструменты, перавязачны матэрыял, прадукты, перапраўлялі да іх ваеннапалонных, удзельнічалі ў баявых аперацыях. У ліст. 1943 група падпольшчыкаў і партызан на чале з Нагібавым ва ўзаемадзеянні з сав. войскамі падтрымлівала іх агнём у баях з праціўнікам каля вёсак Цыганы і Малыя Стайкі Гарадоцкага р-на. Па заданню сав. камандавання патрыёты правялі ў тыл ворага часці Чырв. Арміі,

## ВІЦЕБСКАЕ ПАРТЫЙНА-КАМСАМОЛЬСКАЕ ПАДПОЛЛЕ Ў ГАДЫ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ




Аўтар Н.І.Дарафеенка

## СПІС ПАДПОЛЬНЫХ ГРУП І ВАЖНЕЙШЫХ КАНСПІРАТЫЎНЫХ КВАТЭР ВІЦЕБСКАГА ПАРТЫЙНА-КАМСАМОЛЬСКАГА ПАДПОЛЛЯ

**Падпольныя групы, якія дзейнічалі ў Віцебску і прыгарадзе**

1. Азеуша В. А.; в. Букацііна.
2. Акаловіч К. С.; тубдыспансер па вул. Гогалеўскай, цяпер вул. Леніна.
3. Амельчанкі В. Т.; ням. вайсковая часць, б. сярэдняя школа № 6; група ваеннапалонных.
4. Анапрыенкі І. І; на тэрыторыі б. іголь нага з-да па Суражскай шашы, цяпер прыборабудаўнічы з-д па вул. Гагарына; група ваеннапалонных.
5. Арлоўскага В. М.; аэрадром.
6. Барадзіна А. П.; ням. вайсковая часць па вул. Верхненабярэжнай, цяпер вул. А. К. Ільінскага.
7. Бекішава І. А.; аэрадром.
8. Белахвосцікава А. Я.; бляшаная майстэрня па вул. Леніна.
9. Белянёва П. П.; гаруправа.
10. Бярозкінай Л. Дз.; вул. Замкавая і друкарня.
11. Вішнеўскага П. І.; пасёлак тарнага у Доме спецыялістаў; група ваеннапалонных.
12. Вялава І. С.; раён Сакольніцкіх вуліц.
13. Вярбіцкага В. А.; Маркаўшчына.
14. Гагулі А. А.; раён Гарадоцкіх вуліц.
15. Гамаюнава А. Ф.; ням. гасп. часць у Доме спецыялістаў; група ваеннапалонных.
16. Гваздзёвай З. Я.; пас. Лужасна.
17. Грабяньковай Г. К.; Пескавацік, Кастрычніцкі раён горада.
18. Грунтова П.-П.; вучэбная гаспадарка «Падбярэззе».
19. Данілава Г. Я.; ліцейная вытворчасць па Суражскай шашы, цяпер вул. Гагарына.
20. Дзянісава В. М.; раён вул. Піянерскай.
21. Ермакова І. С.; транспартная арг-цыя «Штрала»; група ваеннапалонных.
22. Еўдакімава М. І.; в. Альгова.
23. Журынскай М. А.; хлебазавод № 1.
24. Заронаўская; в. Заронава.
25. Земляковай Д. П.; ст. Лосвіда — в. Доўжа.
26. Кажычэнкава С. Р.; раён пл. Свабоды.
27. Казлоўскага У. А.; электрастанцыя.
28. Капцелавай М. М.; вул. Талстога.
29. Кірыленкі В. І.; Стадыённы пасёлак.
30. Корбан М. К.; пас. Лучоса. Першамайскі р-н горада.
31. Кочатавай З. Ф.; в. Батрукі, г. Віцебск.
32. Красоўскага М. П.; чыгуначны вузел.
33. Красцінай Г. А.; раён аэрадрома.
34. Краўчынскага І. Д.; Пескавацік, Кастрычніцкі р-н горада.
35. Крукава А. Г.; ням. вайсковая часць у раёне в. Падбярэззе; група ваеннапалонных.
36. Кулагінай В. С.; в. Букаціна, Кастрычніцкі р-н горада.
37. Купалава М. А.; чыгуначны вузел.
38. Кутняка В. Т.; ням. вайсковая часць па вул. Баўмана; група ваеннапалонных.
39. Ламаносенка Т. А.; раён вул. Авіяцыйнай, цяпер вул. Газеты «Праўда».
40. Лінці А. І.; пральня па вул. Леніна.
41. Ляхоўскага М. А.; чыг. вузел.
42. Ляхоўскага П. К.; в. Старое Сяло.
43. Максіменкі А. П.; група «Няўлоўныя».
44. Марудава Т. А.; Чыгуначны р-н горада.
45. Мехава Ф. К.; раён Вапнавых вуліц, чыг. магістраль.
46. Міхайлоўскай А. В.— Гіро Р. М.; в. Лётцы.
47. Мурашкі М. Л. і Махнова Р. Ф.; гаруправа, мед. ўстановы горада.
48. Нагібава М. Я.; раён Гарадоцкіх вуліц.
49. Папяляевай П. А.; Пескавацік, Кастрычніцкі р-н горада.
50. Пісарэўскага Г. С.; ням. вайсковая часць у раёне н. Падбярэззе; група ваеннапалонных.
51. Пушкарова Р. І.; фанерны з-д.
52. Рускіх Г. М.; ням. вайсковая часць сувязі на беразе Зах. Дзвіны, цяпер вул. Камсамольская.
53. Свечкінай М. К.; Стадыённы пасёлак.
54. Сакаловай А. А.; Пескавацік, Кастрычніцкі р-н горада.
55. Саладухіных А., М., З. і Г.; раён б. 5-га цагельнага з-да, цяпер вул. Баўмана.
56. Сасноўская; в. Сасноўка.
57. Сідарэнкі-Пабудзея І. А.; в. Бабінічы.
58. Скарабагатавых А. Г. і Г. Г.; чыг. вузел.
59. Смірнова П. С.; раён Гарадоцкай і Полацкай шашы, цяпер вуліцы Ленінградская і Цітова.
60. Спірыдонавай Е. С.; в. Трыніўкі, г. Віцебск, Чыгуначны р-н горада.
61. Сутарман Т. П.; Маркаўшчына.
62. Харужай В. З.; Пескавацік, Кастрычніцкі р-н, вул. Трактарная, цяпер вул. В. Харужай.
63. Хрыпача Л. І.; торфаўпраўленне, торфапрадпрыемства вобласці.
64. Чайкі І. М.; ням. вайсковая часць на пл. Свабоды; група ваеннапалонных.
65. Шалуха В. Дз.; пасёлак тарнага камбіната.
66. Шарэнды Б. С.; мастацкая майстэрня па вул. Леніна.

**Важнейшыя канспіратыўныя кватэры віцебскіх падпольшчыкаў.**

1. Вул. Абаронная, 10 (трымаў І. П. Наўдзюнас), кватэра чэкістаў.
2. Вул. Авіяцыйная, 16, цяпер вул. Газеты «Праўда» (Т. А. Ламаносенка), кватэра армейскай разведгрупы П. В. Буткевіча, падп. групы Т. А. Ламаносенка.
3. Вул. Авіяцыйная, 23, цяпер. вул. Газеты «Праўда» (сям'я У. А. Казлоўскага), кватэра падп. групы У. А. Казлоўскага.
4. Вул. Акадэміка Паўлава, 5 (Н. Ф. Лынчанка), кватэра армейскай разведгрупы Ю. С. Рудакова, падп. груп Т. А. Марудава. П. К. Ляхоўскага.
5. Вул. Аршанская, 19 (К. Д. Сямёнава), кватэра падп. груп І. А. Бекішава, Т. А. Ламаносенка.
6. Вул. Аршанская, 54а (В. П. Брухнова), кватэра падп. групы М. Л. Мурашкі і Р. Ф. Махнова.
7. Вул. Баўмана, 16 (сёстры М., А., З. і Г. Саладухіны), кватэра падп. групы сясцёр Саладухіных.
8. Вул. 3-я Валадарскага, 20 (І. М. Арлоў), кватэра армейскай разведгрупы Ю. С. Рудакова і падп. групы В. С. Кулагінай.
9. Вул. Верхненабярэжная, 11, цяпер вул. А. К. Ільінскага (К. Е. Пятроў), кватэра сакратара Чыгуначнага райкома КП(б)Б І. Г. Грыгор'ева.
10. Вул. 2-я Ветраная, 11, цяпер вул. Грыбаедава, 5 (В. Пінчук), кватэра армейскай разведгрупы П. А. Крылатых.
11. Вул. 2-я Ветраная, цяпер Грыбаедава, 14 (сям'я М. І. Мацэнка), кватэра падп. гаркома КП(б)Б, падп. парт. цэнтра.
12. Вул. 3-я Ветэрынарная, 11, цяпер 3-я Даватара (Л. П. Амелькін), кватэра спецгрупы НКУС.
13. Вул. 5-я Вінчэўскага, 16, цяпер пр. Чарняхоўскага (М. К. Оскер), кватэра падп. парт. цэнтра, армейскай разведгрупы М. Р. Яфімава.
14. Вул. 12-я Гарадоцкая, 20/10 (сям'я А. І. Лінці), кватэра падп. парт. цэнтра.
15. Вул. 14-я Гарадоцкая, 17 (А. М. Лапавухаў), кватэра чэкістаў, падп. групы А. А. Гагулі.
16. Вул. 14-я Гарадоцкая, 19 (Ф. М. Шалаева), кватэра падп. групы А. А. Гагулі.
17. Вул. 17-я Гарадоцкая, 1, цяпер вул. Вінаградавай (П. С. Смірноў), кватэра армейскай разведгрупы П. А. Крылатых, падп. груп П. С. Смірнова, М. Я. Нагібава.
18. Вул. 17-я Гарадоцкая, 6, цяпер вул. Вінаградавай (Я. І. Тычыніна), кватэра падп. гаркома КП(б)Б, армейскай разведгрупы П. А. Крылатых, падп. групы М. Я. Нагібава.
19. Вул. 17-я Гарадоцкая, 21 (М. П. Захарава), кватэра армейскай разведчыцы А. С. Вінаградавай, падп. групы П. С. Смірнова.
20. Вул. 22-я Гарадоцкая, 7 (В. А. Шніпаў), кватэра падп. групы А. А. Гагулі.
21. Гарадоцкая шаша, 103, цяпер вул. Ленінградская, 37 (П. Кёрнер-Шрадэр), кватэра ням. антыфашыстаў.
22. Вул. Гогалеўская, 11, цяпер вул. Леніна, 18, былы тубдыспансер (К. С. Акаловіч), кватэра армейскай разведгрупы М. Р. Яфімава, чэкістаў, падп. групы К. С. Акаловіч.
23. Вул. 3-я Гутараўская, 33 (А. П. Волат), кватэра падп. групы гаркома КП(б)Б, падп. парт. цэнтра.
24. Вул. 2-я Жлобінская, 25 (сёстры Ляонавы), кватэра армейскага разведчыка В. І. Чыркова, падп. групы К. С. Акаловіч.
25. Вул. 3-я Завадская, 12 (А. А. Сакалова), кватэра падп. гаркома КП(б)Б, падп. груп А. А. Сакаловай, І. А. Бекішава.
26. Вул. 3-я Загарадная, 20 (сям'я Б. С. Шарэнды), кватэра армейскіх разведгруп Ю. С. Рудакова, М. Р. Яфімава, падп. групы Б. С. Шарэнды.
27. Вул. Замкавая, гадзіннікавая майстэрня (П. Д. Багдановскі), кватэра армейскай разведгрупы М. Р. Яфімава, падп. групы А. М. Казлова.
28. Вул. Замкавая, 3 (П. І. Гаўберг — Іванова), кватэра падп. групы Л. Дз. Бярозкінай.
29. 3-і Вапнавы зав., 7 (Ф. К. Мехаў), кватэра чэкістаў, падп. груп Ф. К. Мехава і А. А. Гагулі.
30. Вул. Інжынерная, 35, цяпер 41 (І. Ц. Куракоў), кватэра армейскай

разведкі, падп. групы М. А. Ляхоўскага.
31. Карасінны зав., 4 (сям'я Т. А. Марудава), кватэра армейскай разведгрупы Ю. С. Рудакова, падп. групы Т. А. Марудава.
32. Вул. Кінафабрычная, 10, цяпер вул. Чапаева (Е. С. Мазікава-Хаванская), кватэра чэкістаў.
33. Вул. 8-я Клінічная, 43 (Г. С. Кіташава), кватэра армейскай разведгрупы П. В. Буткевіча, падп. групы Т. А. Ламаносенка.
34. Клубны зав., 9 (М. А. Кузняцова), кватэра армейскага разведчыка В. І. Чыркова, падп. групы К. С. Акаловіч, падп. паспартны стол.
35. Вул. 1-я Краснабрыгадная, 22а (Д. І. Кузьміна), кватэра армейскай разведгрупы П. В. Буткевіча.
36. Вул. 7-я Куйбышава, 12 (А. С. Стаякова), кватэра армейскага разведчыка В. І. Чыркова, кватэра сакратара Чыгуначнага райкома КП(б)Б І. Г. Грыгор'ева.
37. Вул. 5-я Лінія, 20 (Г. М. Гранькова), кватэра падп. абкома ЛКСМБ.
38. Вул. 6-я Лінія, 4, цяпер 5 (сям'я В. М. Арлоўскага), кватэра армейскай разведгрупы П. В. Буткевіча, падп. групы П. В. Арлоўскага.
39. Вул. 4-я Нагіна, 17 (А. Я. Лукашэнка), кватэра падп. групы К. С. Акаловіч.
40. Пас. Качэргі, 12, цяпер вул. Пугачова, 11 (сям'я М. К. Свечкінай), кватэра падп. груп М. К. Свечкінай, А. Я. Белахвосцікава.
41. Пас. Новы Быт, Ручэйны зав., 10а (М. Я. Мартышунас), кватэра сакратара Чыгуначнага райкома КП(б)Б І. Г. Грыгор'ева.
42. Пас. Чэпіна, 1 (Я. І. Хмялёў), кватэра армейскай разведгрупы П. А. Крылатых, падп. групы М. Я. Нагібава.
43. Вул. Рыжская, 65/14 (М. К. Янін), кватэра армейскай разведгрупы П. А. Крылатых.
44. Вул. 2-я Сакольніцкая, 2 (сям'я І. С. Вялава), кватэра падп. гаркома КП(б)Б, падп. груп І. С. Вялава, Е. С. Спірыдонавай.
45. Вул. 2-я Стадыённая, 27, цяпер вул. Белахвосцікава, 29 (А. Я. і М. Я. Белахвосцікавы), кватэры падп. абкома КП(б)Б, падп. групы А. Я. Белахвосцікава.
46. Вул. 2-я Стадыённая, 27а, цяпер вул. Белахвосцікава (сям'я Пахомавых), кватэра падп. групы А. Я. Белахвосцікава.
47. Вул. 3-я Суражская, 10 (А. І. Багданава), кватэра армейскага разведчыка М. А. Шпакава, падп. групы І. А. Бекішава.
48. Вул. 3-я Суражская, 10, гадзіншікавая майстэрня (М. А. Панкоў), кватэра армейскага разведчыка М. А. Шпакава, падп. групы І. А. Бекішава.
49. Пасёлак тарнага камбіната, 2 (М. Ц. Цвяткова), кватэра падп. групы В. Дз. Шалуха.
50. Пасёлак тарнага камбіната, 5 (Л. М. Аўсянкіна), кватэра падп. групы В. Дз. Шалуха.
51. Пас. тарнага камбіната, 6 (сёстры Вішнеўскія), кватэра армейскага разведчыка В. І. Чыркова.
52. Вул. Трактарная, 4, цяпер вул. В. Харужай (сям'я Вараб'ёвых), кватэра падп. парт. цэнтра — падп. групы В. Харужай.
53. Вул. 1-я Украінская, 5 (А. М. Казлова), кватэра чэкістаў, падп. групы В. А. Вярбіцкага.
54. Вул. 1-я Эсперанта, 17, цяпер вул. 1-я Чарнышэўская, 13/1 (А. П. Шашкова), кватэра армейскай разведгрупы «Іспалін» У. А. Мядзведзева, падп. групы Г. К. Грабяньковай.

**Помнікі ў гонар Віцебскіх падпольшчыкаў.**

1. Стэла ў гонар патрыётаў гар. падполля, загубленых фашыстамі ў 1941—44 каля Смаленскага рынка.
2. Помнік ў гонар падпольшчыкаў групы Л. Дз. Бярозкінай.
3. Абеліск ахвярам фашызму на тэрыторыі б. 5-га чыг. палка.
4. Помнік камсамольцам і моладзі Чыгуначнага р-на, якія загінулі ў барацьбе з фашызмам.
5. Мемарыяльная дошка на будынку б. турмы СД (цяпер размешчаны раздзел экспазіцыі абл. краязнаўчага музея).
6. Памятны знак падпольшчыкам, загубленым фашыстамі каля абл. краязнаўчага музея.
7. Мемарыяльная дошка на будынку друкарні ў гонар падпольшчыкаў В. Д. Карняшонка і Я. Я. Ваўчка з групы Л. Дз. Бярозкінай.
8. Мемарыяльны знак на магіле ахвяр фашызму на беразе р. Віцьбы.
9. Мемарыяльны комплекс у гонар вызваліцеляў горада — сав. воінаў, партызан і падпольшчыкаў.
10. Помнік Герою Сав. Саюза В. З. Харужай.
11. Курган і абеліск на месцы пахавання віцебскіх падпольшчыкаў на тэр. саўгаса «Рудакова».

---

разам з якімі наносілі ўдары па камунікацыях, жывой сіле і баявой тэхніцы праціўніка. Спрабуючы разграміць партыз. рух, знішчыць падполле, гітлераўцы з лют. 1943 праводзілі буйныя карныя экспедыцыі. Яны ўвялі ў падполле вял. групу правакатараў, чым нанеслі яму цяжкі ўдар, былі знішчаны многія падп. групы. У крас.—маі 1943 толькі адным карным органам — тайнай палявой паліцыяй № 703 былі арыштаваны 72 падпольшчыкі, з іх 35 расстраляны, 26 кінуты ў лагер СД, у ліст. арыштавана яшчэ больш за 60 чал., з іх 38 расстраляны. Падполле панесла вял. страты, загінулі многія кіраўнікі, абарваліся сувязі з парт. органамі, з партызанамі. Віцебскі падп. гарком КП(б)Б правёў вял. работу па аднаўленню падп. сеткі, наладжванню сувязей. На працягу 1943 створана 10 новых падп. груп, якія ўзначалілі камуністы В. Т. Амельчанка, І. І. Анапрыенка, А. А. Барадзін, А. Ф. Гамаюнаў, І. С. Ермакоў, А. Г. Крукаў, В. Т. Путняк, камсамолец Г. С. Пісарэўскі, Г. М. Рускіх, І. М. Чайка. Летам і восенню 1943 сав. войскі вызвалілі частку тэр. Віцебскай вобл. і замацаваліся на бліжэйшых подступах да Віцебска. З вер. гітлераўцы пачалі эвакуацыю сваіх устаноў з горада, з кастр.— прымусовы вываз насельніцтва. У сак. 1944 акупанты аб'явілі Віцебск крэпасцю, наваднілі франтавымі часцямі. Па ўзгадненню з парт. кіраўніцтвам і партызанамі падп. групы з кастр. 1943 пачалі пакідаць горад і ўлівацца ў партыз. атрады.

**Падпольная група Акаловіч К. С.** дзейнічала з ліп. 1941 да сак. 1943 у мед. установах горада. Налічвала 15 чал. Кіраўнік — урач туберкулёзнай бальніцы К. С. Акаловіч. Выкарыстаўшы пашпарты памерлых, гісторыі хвароб, бланкі розных даведак, яна аформіла каля 100 дакументаў для вызвалення ваеннапалонных, камуністаў, асоб яўрэйскай нацыянальнасці, разведчыкаў і сувязных, моладзі ад вывазу ў Германію. Акаловіч і Т. М. Шырачэнка размяшчалі ў бальніцы воінаў Чырв. Арміі, якія апынуліся ў тыле ворага, потым пераводзілі іх на канспіратыўныя кватэры, далечвалі, а Т. К. Вішнеўская выводзіла з горада. З дапамогай Акаловіч былі легалізаваны армейскі разведчык В. І. Чыркоў і радыстка з разведгрупы М. Р. Яфімава («Армейца»). Пад выглядам наведвання хворых Акаловіч і М. М. Кірухіна збіралі ў горадзе звесткі аб размяшчэнні штабоў, складоў, абаронных збудаванняў, зенітных установак. Здабытыя разведданыя, медыкаменты, перавязачны матэрыял падпольшчыкі перадавалі аператыўна-чэкісцкай групе А. А. Максіменкі, партыз. брыгадзе «Аляксея». У крас. 1942 патрыёты вывелі да партызан групу ваеннапалонных, у маі Акаловіч вывела каля 30 чал. У жн. пад пагрозай правалу Акаловіч і некаторыя падпольшчыкі пайшлі з горада. Тыя, што засталіся, працягвалі працаваць пад кіраўніцтвам Шырачэнка. На будынку б. тубдыспансера ў гонар падпольшчыкаў у 1966 устаноўлена мемар. дошка.

**Падпольная група Бекішава І. А.** дзейнічала з сак. 1942 да ліст. 1943. Кіраўнік — камуніст І. А. *Бекішаў* («Андрэй»). Трапіўшы ў акружэнне, ён зімой 1941—42 звязаўся праз М. А. Шпакава з падп. групай П. К. Ляхоўскага, вясной 1942 — з армейскай разведгрупай Рудакова. Летам 1942 наладзіў сувязь з адказным арганізатарам Віцебскага падп. абкома КП(б)Б па Віцебску В. Р. Кудзінавым. З крас. 1943 група працавала пад кіраўніцтвам Віцебскага падп. гаркома КП(б)Б. Аб'ядноўвала 13 камуністаў, камсамольцаў і беспарт. патрыётаў, якія вялі шырокую разведвальную работу. На працягу амаль 2 гадоў група давала дакладныя звесткі пра аэрадром. Працуючы там электраманцёрам, Бекішаў склаў падрабязны план аэрадрома, разам з братамі В. М. і Г. М. Арлоўскімі замініраваў 2 самалёты, з Г. Ф. Канаплёвым выявіў несапраўдны аэрадром, што дало магчымасць сав. авіяцыі бамбіць сапраўдны. Жонка Бекішава Г. І. Багданава, вядомы ў горадзе ўрач, прымаючы пацыентаў дома, забяспечвала сувязь паміж членамі групы, перасылала партызанам медыкаменты, ратавала моладзь ад угону ў Германію. Разам з медсястрой В. І. Турок яна вяла кругласутачнае назіранне за шашой Віцебск — Сураж. Падпольшчык М. Панкоў («Косця»), які быў умелым гравёрам, вырабляў розныя пячаткі, штампы. Група забяспечвала сябе і інш.

групы ўзрыўчаткай і толам, працавала амаль без правалаў у цесным кантакце з інш. надп. групамі. У ліст. 1943 фашысты напалі на след кіраўніка; яму ўдалося разам з сям'ёй пайсці ў партыз. атрад.

**Падпольная група Белахвосцікава А. Я.** дзейнічала з ліп. 1941 да ліст. 1943. Пачала фарміравацца яшчэ да акупацыі. Кіраўнік — камуніст А. Я. Белахвосцікаў — быў пакінуты для работы ў падполлі. Аб'ядноўвала 25 чалавек. У выніку старannага адбору людзей для работы ў падполлі група амаль 2 гады працавала без правалу. Да вясны 1942 была звязана з даваен. сакратаром Чыгуначнага РК КП(б)Б І. Г. Грыгор'евым, потым — з партыз. брыгадай «Аляксея» (гл. *Партызанская брыгада імя А. Ф. Данукалава*), Лёзненскім падп. РК КП(б)Б. З 2-й пал. 1942 Белахвосцікаў пасылаў інфармацыю Віцебскаму падп. абкому КП(б)Б, разведгрупе Рудакова. Восенню 1942 Белахвосцікаў і М. С. Бабdroў, што працаваў у гар. управе, раздалі насельніцтву, а часткова спусцілі ўніз па Зах. Дзвіне вял. колькасць лесу, які хацелі выкарыстаць акупанты. Паводле разведданых групы сав. авіяцыя наносіла ўдары па ваен. аб'ектах праціўніка. У ноч на 22.2.1942 падпольшчыкі з дапамогай светлавых сігналаў навялі сав. самалёты на месца, дзе была замаскіравана калона аўтамашын з ваен. грузам. Атрымаўшы ў 1942 патэнт на адкрыццё майстэрні, Белахвосцікаў ператварыў яе ў штаб-кватэру падп. групы. Падпольшчыкі і сувязныя прыносілі сюды сав. газеты, лістоўкі, медыкаменты, узрыўчатку, абменьваліся разведінфармацыяй, намячалі планы дзеянняў. 5.5.1943 Белахвосцікаў схоплены фашыстамі і расстраляны; група працягвала барацьбу пад кіраўніцтвам П. С. Шлякавай, якая ў ліст. 1943 арыштавана і расстраляна.

**Падпольная група Бярозкінай Л. Дз.** дзейнічала з ліп. 1941 да вер. 1942 у гар. управе, друкарні і вузле сувязі. Аб'ядноўвала 10 чал. Кіраўнікі: А. Г. Каплёў (павешаны 19.12.1941), Л. Дз. Бярозкіна. Са снеж. 1941 яе цэнтрам стала кватэра М. І. Захарава, дзе жыла Бярозкіна, П. І. Гаўберг-Іванова была сувязной групы з партыз. брыгадай «Аляксея», праз урача М. Б. Мурашка (чл. падп. групы медработнікаў) атрымлівала медыкаменты і перавязачны матэрыял. Група мела сувязь з партыз. атрадам М. Ф. *Біруліна* (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 1-я Беларуская*). Падпольшчыкі вялі антыфаш. прапаганду, забяспечвалі партызан разведінфармацыяй, перадавалі медыкаменты, ратавалі ваеннапалонных і дапамагалі ім выходзіць з горада. Я. Я. Валчок і В. Дз. Карняшонак, якія працавалі ў друкарні прафаш. газ. «Новый путь», на працягу лета і восені 1942 рэгулярна друкавалі і распаўсюджвалі сав. лістоўкі. 7.9.1942 пры падрыхтоўцы дыверсіі на ням. вузле сувязі і тэлефоннай станцыі былі арыштаваны М. У. Вараб'ёў, што працаваў там, Бярозкіна і З. Ц. Васільева, якія прынеслі тол і міны ад партызан. У час друкавання лістовак арыштаваны Валчок і Карняшонак. 22.9.1942 пасля жорсткіх катаванняў гітлераўцы пакаралі смерцю патрыётаў.

**Падпольная група Вярбіцкага В. А.** дзейнічала са жн. 1941 да крас. 1943 як разведвальна-дыверсійная. Створана камуністамі В. А. Вярбіцкім (кіраўнік) і С. П. Бурлаковым, пакінутымі ў Віцебску для падп. работы. Аб'ядноўвала 33 чал. З вясны 1942 працавала пад кіраўніцтвам аператыўна-чэкісцкай групы А. П. Максіменкі. Пазней устаноўлена сувязь з адказным арганізатарам падп. абкома КП(б)Б па Віцебску В. Р. Кудзінавым і партыз. атрадамі Біруліна і Д. Ф. *Райцава*. На працягу амаль 2 гадоў група вяла разведку, антыфаш. прапаганду, пастаўляла партызанам зброю, боепрыпасы, медыкаменты, забяспечвала ваеннапалонных і жыхароў горада дакументамі і накіроўвала іх да партызан. Патрыёты наладзілі масавы вынас зброі са склада армейскага корпуса ворага, боепрыпасаў і ўзрыўчаткі для партызан. Толькі за 2 месяцы 1943 яны перадалі партызанам каля 4 тыс. патронаў, 20 ручных гранат, 6 кг узрыўчаткі, кулямёт, некалькі пісталетаў, 2 пісталеты-кулямёты. Асабліва шмат зброі і боепрыпасаў здабылі М. Н. Вінакураў, М. В. Лапуноў, В. Лук'яненка, Л. Я. Шчаглова. П. Ф. Іваноў па частках вынес, сабраў і перадаў партызанам 7 аўтаматаў. Медыкаменты паступалі ад сясцёр А. І. і М. І. Старавойтавых, якія працавалі ў аптэцы. Муж і жонка А. Ф. Юшкевіч і А. М. Міхайлоўская захоўвалі ў сваім доме радыёпрыёмнік, слухалі зводкі і забяспечвалі групу прапагандысцкім матэрыялам, хавалі ваеннапалонных і перапраўлялі іх да партызан. У крас. 1943 гітлераўцы арыштавалі 30 чл. групы, 17 чал. расстраляны, астатнія адпраўлены ў лагер смерці.

**Падпольная група Ліпці А. І.** дзейнічала з крас. 1942 да вер. 1943 у пральні, якая абслугоўвала вайсковыя часці акупантаў. Кіраўнік — камуніст А. І. Ліпці. Сярод рабочых пральні было шмат сав. грамадзян кітайскай нацыянальнасці. Па квітках на бялізну яны вызначалі нумары вайсковых часцей, месцы іх дыслакацыі, прыкладную колькасць, час прыбыцця і выбыцця часці з пэўнага ўчастка фронту. Падпольшчыкі перапальвалі хімікатамі вял. партыі бялізны, здабывалі для партызан зброю і бензін (толькі за адзін раз партызанам адпраўлена 17 каністраў бензіну). Група мела сувязь з партыз. атрадам М. Ф. Біруліна. Сувязь з Харужай ажыццяўлялі К. Дз. Балдачова і З. І. Шаракова. З лета 1942 падпольшчыкі выконвалі заданні армейскай разведгрупы Крылатых. Сувязнымі былі сёстры Ірына і Міра Жан Ванфу, якія перадавалі шыфроўкі Харужай адказнаму арганізатару Віцебскага падп. абкома КП(б)Б Кудзінаву. У вер. 1943 гітлераўцы арыштавалі Ліпці, Чу Чаліна і Сюдаболя.

**Падпольная група Нагібава М. Я.** дзейнічала з ліп. 1941 да сак. 1944. Аб'ядноўвала 25 чал. Кіраўнік М. Я. Нагібаў, нам. кіраўніка Т. С. Шчукіна. З першых дзён фаш. акупацыі Віцебска члены групы збіралі зброю, узрыўчатку, вялі разведку. На канспіратыўнай кватэры Нагібаў вучыў іх міннападрыўной справе. Вясной 1942 група наладзіла сувязь з 1-й Бел. партыз. брыгадай і Віцебскім абкомам КП(б)Б. Падпольшчыкі ахапілі разведкай амаль увесь фаш. гарнізон у горадзе, ажыццяўлялі дыверсіі на чыг. вузле, лініях Віцебск — Гарадок, Віцебск — Полацк. Толькі за кастр. — снеж. 1942 на чыгунцы разбіты 3 паравозы, 39 вагонаў, 36 цыстэрнаў з бензінам, узарваны шашэйны мост. У кастр. Нагібаў і Шчукіна падарвалі паравоз і 22 вагоны. У ноч на 26 ліст. група пусціла пад адхон 2 ваен. эшалоны, у снежні — паравоз і 12 вагонаў. Падпольшчыкі ўзаемадзейнічалі з групамі Ф. К. Мехава і А. А. Гагулі, П. С. Смірнова, М. А. Ляхоўскага, перадавалі партызанам і армейскім разведчыкам каштоўныя звесткі, ажыццяўлялі сувязь з падп. гаркомам партыі, праводзілі ў тыл праціўніка армейскіх разведчыкаў, давалі ім свае базы. З 18.11 да 4.12.1943 разам з сав. танкістамі трымала абарону на ўчастку вёсак Цыганы — Малыя Стайкі Гарадоцкага р-на, знішчыла 20 гітлераўцаў і іх памагатых, 19 захапіла ў палон. Дзейнічала да злучэння з часцямі Чырвонай Арміі.

**Падпольная група Харужай В. З.** дзейнічала з 27.9 да 13.11.1942. Рашэннем ЦК КП(б)Б у вер. 1942 у Віцебск накіравана са спец. заданнем група з 17 чал. на чале з В. З. Харужай (падп. псеўд. Г. С. Карнілава). У яе ўвайшлі С. С. *Панкова*, Е. С. Суранава, А. Ф. Ермаковіч, А. П. Іванькова і інш. Віцебск знаходзіўся ў прыфрантавой палосе на гал. напрамку 3-й і 4-й ударных армій Калінінскага фронту, таму патрэбна была дакладная інфармацыя аб праціўніку, правільная ацэнка падзей на месцы і выбар метадаў барацьбы. Улічваючы, што адказны арганізатар Віцебскага абкома КП(б)Б, шматлікія кіраўнікі камсам. падполля, спецгрупы Чырв. Арміі і аператыўна-чэкісцкія групы, пад кіраўніцтвам якіх працавалі падпольшчыкі, знаходзіліся ў размяшчэнні партыз. брыгад, на Харужую была ўскладзена задача па кіраўніцтву падполлем горада. У вер. 1942 праз Віцебскія «вароты» група прыбыла ў Суражскую партыз. зону. 27 вер. сувязная К. Дз. Балдачова правяла ў Віцебск Ермаковіч і Суранаву, 1.10.1942 — Харужую. У першыя дні высветлілася, што распрацаваны раней план не ўлічваў усёй складанасці абставін. 104 адрасы, якія былі ў Харужай, патрабавалі праверкі. Да 25.10.1942 Харужая наладзіла сувязі з 20 патрыётамі, сярод якіх былі і кіраўнікі падп. груп. Надзейнымі памочнікамі сталі сем'і Вараб'ёвых, М. І. Мацэнка, Г. П. Волат, камуністка М. І. Гульбе, якая добра ведала ням. мову. Асноўнай канспіратыўнай кватэрай была кватэра М. І. Вараб'ёвай. М. К. Оскер рэгулярна атрымлівала для Харужай інфармацыю аб аэрадроме. Харужая была звязана з падп. групамі Бекішава, Ліпці, групай «Радзіма» (30 чал.), што дзейнічала на чыгунцы, з армейскай разведчыцай В. Пінчук, якая цераз сувязную перадала Віцебскаму падп. абкому КП(б)Б 12 лістоў-справаздач Харужай. Члены падп. групы вялі антыфаш. прапаганду сярод насельніцтва, збіралі, правяралі і перадавалі па прызначэнню разведінфармацыю, указвалі аб'екты для нанясення ўдараў сав. авіяцыі і паведамлялі іх вынікі. 13.11.1942 у час сустрэчы Харужай і Суранавай з Панковай і Балдачовай у доме Вараб'ёвых усе яны былі арыштаваны і пасля 22 дзён катаванняў 4.12. 1942 расстраляны.

**Падпольныя групы Мехава Ф. К. і Гагулі А. А.** дзейнічалі са жн. 1941 да лют. 1943 на чыгунцы ў Віцебску. Аб'ядноўвалі 24 чал., кіраўнікі Ф. К. Мехаў і А. А. Гагуля. Спачатку дзейнічалі пад кіраўніцтвам Мехава, а з кастр. 1942 як самастойныя, у цесным кантакце. Падпольшчыкі вялі разведку, трымалі сувязь з аператыўна-чэкісцкай групай Максіменкі. Пад асаблівым кантролем падпольшчыкаў быў чыгуначны вузел. Падлеткі І. М. Ерафееў і Дз. Ф. Тарасаў назіралі за рухам цягнікоў, разгрузкай

і пагрузкай, запаміналі надпісы і распазнавальныя знакі на аўтамашынах, цягачах і вагонах. А. А. Гагуля і У. Ф. Няглін выкралі ў гітлераўцаў каля 15 розных дакументаў для групы Максіменкі. Працуючы ў аўтарамонтных майстэрнях, Мехаў і К. І. Шутаў разам з ваеннапалоннымі псавалі рухавікі аўтамашын і танкаў. У жн. 1942 падпольшчыкі заміціравалі дарогу ў в. Грышаны, у канцы вер. 1942 узарвалі эшалон з жывой сілай і баявой тэхнікай праціўніка. За вер.— кастр. 1942 патрыёты вывелі са строю 20 аўтамашын, 2 стужкавыя транспарцёры, 23 веласіпеды, вынеслі 300 камплектаў абмундзіравання, 40 коўдраў, 500 кг сметанковага масла, 500 кг цукру, 10 т хлеба, 10 скрынак мыла. У пач. снеж. 1942 патрыёты арыштаваны і расстраляны. Тыя, што асталіся на свабодзе, у снеж. 1942 — студз. 1943 узарвалі мост, пусцілі пад адхон 2 эшалоны.

У барацьбе супраць ням.-фаш. акупантаў загінуў кожны трэці падпольшчык Віцебскага парт.-камсам. падполля, у т. л. В. К. Агінская, В. А. Аляксандрава, І. І. Анапрыенка, І. М. Арлоў, К. Дз. Балдачова, М. Я. Белахвосцікава, А. Я. Белахвосцікаў, браты Н. і С. Бондары, Л. Дз. Бярозкіна, С. П. Бурлакоў, А. Бухарын, браты Бяляевы, Я. Я. Валчок, А. М. Вараб'ёва, М. І. Вараб'ёва, В. С. Вараб'ёў, М. У. Вараб'ёў, А. С. *Вінаградава*, У. І. Вінаградаў, М. Н. Вінакураў, П. І. Воднеў, В. А. Вярбіцкі, А. А. Гагуля, В. А. Гагуля, І. І. Галдаевіч, Г. К. Грабянькова, Д. К. Грабянькоў, К. С. Грабянькоў, Э. Грабянькоў, Г. М. Гранькова, П. В. Гурын, Г. Я. Данілаў, І. А. Жбанкоў, Ф. А. Жбанкоў, У. У. Жукаў, М. А. Жыдовіч, У. Забаранкаў, В. П. Загадская, М. Д. Зайцаў, М. П. Захарава, М. І. Захараў, П. Ф. Іваноў, М. М. Івашчанка, А. М. Іотка, Г. М. Іотка, А. В. Кавалёў, А. М. Казлоў, У. А. Казлоўскі, І. Л. Калінін, С. І. Калінін, А. Г. Канаплёў, М. М. Капцелава, В. Д. Карняшонак, З. Ф. Кочатава, М. П. Красоўскі, У. М. Кузнечык, М. А. Купалаў, М. Лавігін, А. А. Лапавухава, К. Я. Лапавухава, А. Н. Лапавухаў, М. В. Лапуноў, А. І. Ліпці, Дз. А. Літвінаў, Е. К. Лукашэнка, І. К. Лукашэнка, В. Лук'яненка, Н. Ф. Лынчанка, Н. Малічаў, П. Масалаў, Р. Ф. Махноў, К. Меншыкава, Ф. К. Мехаў, А. М. Міхайлоўская, М. Л. Мурашка, М. К. Оскер, С. С. Панкова, К. К. Паплаўскі, В. М. Пахомаў, В. Ф. Пятроў, З. П. Ражкова, А. Ражкоў, М. А. Раманенка, Дз. А. Сазонаў, П. Сакалоўскі, В. Ф. Самусёва, А. К. Свечкін, І. К. Свечкіна, М. К. Свечкіна, А. Г. Скарабагатаў, Г. Г. Скарабагатаў, П. С. Смірноў, Г. С. Стаякова, Е. С. Суранава, К. Д. Сямёнава, Дз. Ф. Тарасаў, І. Трыфунтаў, В. Туркін, А. Украінскі, М. С. Уласава, А. М. Уласаў, С. П. Уласаў, Г. Я. Фёдараў, Н. Філіпоўскі, Б. Я. Халімановіч, В. З. Харужая, Я. С. Харытонаў, Г. К. Хрыпач, Л. І. Хрыпач, В. Чу Чалін, С. М. Шалаеў, М. І. Шаршнёў, П. С. Шлякава, В. А. Шніпаў, Л. Я. Шчаглова, А. Ф. Юшкевіч, А. С. Якімава, І. Я. Якімаў, М. К. Янін, Г. С. Яраноўская і шмат інш. У Віцебску на плошчах, вуліцах і скверах у гонар падпольшчыкаў устаноўлены помнікі і мемар. дошкі. Іх імёнамі названы школы, вуліцы горада. Гл. таксама карту.

*Н. І. Дарафеенка, М. У. Дарафеенка.*

**ВІЦЕБСКА-ХІНГА́НСКАЯ АРТЫЛЕРЫ́ЙСКАЯ ДЫВІ́ЗІЯ,** гвардзейская Чырванасцяжная, ордэнаў Суворава і Кутузава.

Сфарміравана ў Маскоўскай вобл. ў ліст. 1942 як 8-я арт. дывізія рэзерву ВГК у складзе 3 гаўбічных, 2 пушачных і 3 знішчальна-процітанк. арт. палкоў і асобнага разведвальнага арт. дывізіёна. Баявыя дзеянні пачала 16.12.1942 на Варонежскім фронце. 7.3.1943 пераўтворана ў 3-ю гвардз. арт. дывізію рэзерву ВКГ, у пачатку чэрв. 1943— у 3-ю гвардз. арт. дывізію прарыву рэзерву ВГК. З ліп. 1943 на Зах. фронце.

Удзельнічала ў *Смаленскай аперацыі 1943* і вызваленні ўсх. раёнаў БССР. Летам 1944 у складзе 3-га Бел. фронту ўдзельнічала ў баях за вызваленне Беларусі. У час *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944* вызначылася пры прарыве Віцебскага ўмацаванага раёна ням.-фаш. войск і вызваленні Віцебска, за што атрымала ганаровае найменне «Віцебскай» (2.7.1944). За вызваленне Вільнюса ў ходзе *Вільнюскай аперацыі 1944* узнаг. ордэнам Чырвонага Сцяга (25.7.1944). Прымала ўдзел ва Усх.-Прускай аперацыі, штурме Кёнігсберга і ліквідацыі земландскай групіроўкі ням.-фаш. войск. Узнагароджана ордэнамі Суворава II ступені (12.8.1944) і Кутузава II ступені (14.11.1944). Удзельнічала ў разгроме войск японскай Квантунскай арміі, удастоена ганаровага наймення «Хінганскай» (20.9.1945). За перыяд вайны каля 20 тыс. воінаў дывізіі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі СССР, 8 з іх удастоены звання Героя Сав. Саюза, у т. л. ст. лейт. Л. П. Ціхмянаў за баі пад Лёзнам.

Камандавалі дывізіяй: палк. П. М. Ражановіч (ліст. 1942 — вер. 1944), ген.-маёр С. Я. Паноў (вер. 1944 — вер. 1945).

*М. І. Камінскі.*

**ВІЦЕБСКАЯ СТРАЛКО́ВАЯ ДЫВІ́ЗІЯ,** гвардзейская ордэна Леніна, Чырванасцяжная, ордэна Суворава.

Сфарміравана ў жн.— вер. 1941 у Яраслаўскай вобл. як 328-я стралк. дывізія ў складзе 3 стралк. і 1 арт. палкоў. У бой уступіла 7.12.1941 на тэр. Разанскай вобл. Знаходзілася ў складзе 10-й, пасля 16-й (з крас. 1943—11-й гвардз.) армій Зах. фронту.

Удзельнічала ў контрнаступленні пад Масквой і агульным наступленні зімой 1941—42. За стойкасць і мужнасць 24.5.1942 пераўтворана ў 31-ю гвардз. стралк. дывізію. У 1942—43 удзельнічала ў аперацыях Зах. фронту на бранскім і арлоўскім напрамках, у *Курскай бітве 1943*. Вызначылася ў *Беларускай аперацыі 1944*. Наступаючы ў складзе войск 16-га гвардз. стралк. корпуса 11-й гвардз. арміі 3-га Бел. фронту, дывізія ў пач. аперацыі паспяхова прарвала абарону ворага на аршанскім напрамку, рашучымі дзеяннямі садзейнічала поспеху *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944*, за што 2.7.1944 удастоена ганаровага наймення «Віцебскай». За ўдзел у вызваленні г. Маладзечна ў ходзе *Вільнюскай аперацыі 1944* дывізія ўзнаг. ордэнам Чырв. Сцяга (23.7. 1944), за фарсіраванне Нёмана ў раёне г. Алітус — ордэнам Суворава II ступені (12.8.1944), за баі ва Усх. Прусіі — ордэнам Леніна (14.11. 1944).

У 1945 дывізія ўдзельнічала ва Усх.-Прускай аперацыі, штурме Кёнігсберга, разгроме земландскай групоўкі ворага і ўзяцці ваенна-марской базы Пілау (цяпер Балтыйск). За час вайны 14565 воінаў дывізіі ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР, 11 з іх удастоены звання Героя Сав. Саюза. Дывізіяй камандавалі: палк. П. А. Яромін (жн. 1941 — крас. 1942), палк. П. М. Гудзь (крас.— вер. 1942), ген.-маёр А. Ф. Навумаў (кастр. 1942 — лют. 1943), палк., з 17.11.1943 ген.-маёр І. К. Шчарбіна (люты 1943 — ліп. 1944), ген.-маёр І. Дз. Бурмакоў (ліп. 1944 — да канца вайны).

*М. І. Камінскі.*

**ВІЦЕБСКІ АБЛАСНЫ́ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты ў ліст. 1918. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, раскрываецца ў 7 тэмах, пл. 226 м², больш за 900 экспанатаў асн. фонду. Экспануюцца матэрыялы пра абарончыя баі 1941 на Віцебшчыне і абаронцаў горада, пра разгортванне падполля і партыз. руху, дзейнасць Віцебскага падп. абкома КП(б)Б (лістоўкі, партыз. насценныя газеты і *баявыя лісткі*, абл. падп. газ. *«Віцебскі рабочы»*, падп. раённыя газеты *«Калгасная праўда»*, *«Прымежны калгаснік»*, *«Сцяг сацыялізма»*, *«Чырвоная звязда»*), дакументальныя экспанаты пра сакратароў Бягушэўскага падп. РК КП(б)Б А. К. *Стэльмаха* і Віцебскага падп. гаркома ЛКСМБ Н. С. Самуйлаву, камандзіра партыз. брыгады імя Чырванасцяжнага Ленінскага камсамола Д. Ф. *Райцава*, зброя, прадметы быту, фатаграфіі партызан і інш. У экспазіцыі трафейныя фатаграфіі, дакументы, знакі рабства, нагайкі, плёткі, дубінкі наглядчыкаў, нумаркі вязняў і інш. сведчаць пра злачынствы ням.-фаш. захопнікаў. Сярод матэрыялаў аб вызваленні Віцебшчыны ад гітлераўцаў у час *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944* баявыя сцягі 27-й асобнай стралк. і 139-й пушачнай артылерыйскай брыгад, дакументы Маршала Савецкага Саюза І. Х. *Баграмяна*, лётчыка І. П. Посахава і інш. Экспануюцца матэрыялы аб удзеле ўраджэнцаў Віцебшчыны на франтах Вял. Айч. вайны. Сярод экспанатаў скульпт. кампазіцыя «Подзвіг А. Я.

Углоўскага» (скульпт. А. Гвоздзікаў), бюст В. З. Харужай (скульпт. В. Міхеева), карціна «Обальскія падпольшчыкі» (маст. А. Каржанеўскі), малюнкі невядомага мастака падпольшчыц Л. Д. Бярозкінай і З. Т. Васільевай і інш. Працуюць філіялы: *музей баявой садружнасці партызан*, музей у в. Межна (Расонскі р-н), б. турма СД у Віцебску, музей П. М. Машэрава. *В. В. Гронскі.*

**ВІЦЕБСКІ АБЛАСНЫ МУЗЕЙ ГЕРОЯ САВЕЦКАГА САЮЗА М. П. ШМЫРОВА.** Адкрыты 5.7.1969 у Віцебску. Мае 4 экспазіцыйныя залы, пл. экспазіцыі 216 м², 6,5 тыс. экспанатаў, у т. л. 1099 у экспазіцыі. У музеі адлюстравана жыццё і дзейнасць М. П. *Шмырова.* Дакументы, фатаграфіі, рэчавыя экспанаты расказваюць пра ўзнікненне партыз. атрада «Бацькі Мінная», стварэнне 1-й Бел. партыз. брыгады, барацьбу партыз. брыгад 1-й Бел., 1-й Віцебскай і імя Чырванасцяжнага Ленінскага камсамола вясной 1943 супраць карнікаў па абароне Суражскай партыз. зоны (карта-схема разгрому варожага гарнізона ў г. п. Сураж у 1941, электрыфікаваная карта сувязей 1-й Бел. брыгады з асн. раёнамі барацьбы нар. мсціўцаў, схема размяшчэння партыз. аэрадромаў, якія абслугоўваліся 105-м гвардз. авіяпалком, лістоўкі, партыз. сцягі). Экспануюцца бюсты Шмырова, Героя Сав. Саюза М. Ф. *Сільніцкага*, камандзіра партыз. атрада Р. С. Курмялёва, зброя, асабістыя рэчы, дакументы, узнагароды, фатаграфіі Шмырова і інш. партызан. У асобнай зале — рабочы пакой Шмырова. Экспануюцца карціны «Стаялі насмерць» (маст. Б. Кузьмічоў), «Заложнікі» і «М. П. Шмыроў — легендарны камбрыг» (маст. П. Явіч), дэманструецца фільм «Бацька Мінай». Побач з будынкам музея — мемар. парк з высаджанай б. партызанамі дубовай алеяй, дзе ўстаноўлены помнік Шмырову (скульпт. З. Азгур), макет «Рэйкавая вайна», арт. гарматы, мінамёт і інш. зброя. *Б. П. Корабаў.*

**ВІЦЕБСКІ «КАЦЁЛ»,** акружэнне войскамі 3-га Бел. і 1-га Прыбалт. франтоў у ходзе *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944* 5 ням. дывізій пад Віцебскам. 23.6.1944 войскі 43-й арміі 1-га Прыбалт. фронту прарвалі абарону ворага на ПнЗ ад Віцебска, войскі 39-й арміі 3-га Бел. фронту — на ПдУ ад горада, абышлі Віцебск з Пд і ПдЗ і ў ноч на 25.6.1944 злучыліся каля в. Гняздзілавічы (цяпер Гняздзілава) Бешанковіцкага р-на, замкнуўшы акружэнне віцебскай групоўкі праціўніка. У «кацёл» трапіла 5 дывізій 3-й ням. танк. арміі, якія да 27 чэрв. разгромлены. 26 чэрв. вызвалены Віцебск. Праціўнік страціў каля 20 тыс. салдат і афіцэраў забітымі, больш за 10 тыс. палоннымі. У в. Гняздзілава ў гонар сав. воінаў пастаўлена стэла.

**ВІЦЕБСКІ ПАДПОЛЬНЫ АБКОМ КП(б)Б.** Створаны *Цэнтральным Камітэтам КП(б)Б* і працаваў пад яго кіраўніцтвам з 8.3.1942 да ліп. 1944. Дзейнічаў на тэр. Віцебскай вобл. Узначальваў *Віцебскі падпольны гарком КП(б)Б* і 20 падп. райкомаў [гл. *Раённыя падпольныя камітэты КП(б)Б*], якія аб'ядноўвалі 198 пярвічных парт. арг-цый, 3800 камуністаў у партыз. фарміраваннях. 15 райкомаў выдавалі газеты (гл. *Друк падпольны*). Кіраваў дзейнасцю 39 партыз. брыгад на тэр. вобласці. Накіроўваў работу *Віцебскага падпольнага абкома ЛКСМБ*, Аршанскага, Асвейскага, Асінторфскага, Боркавіцкага, Віцебскага, Гарбачэва-Мурагоўскага, Забор'еўскага, Лепельскага раённага, Межаўскага, Обальскага, Полацкага раённага, Прошкаўскага, Расонскага, Сакалішчанскага, Сельніцка-Краснапольскага, Сімакоўскага, Ушацкага, Чашніцкага парт., камсам. і патрыятычнага падполля (гл. адпаведныя артыкулы). Сакратары абкома: І. А. *Стулаў* (1-ы сакратар), Я. А. *Жылянін* (з 23.4.1942), І. Б. *Пазнякоў* (з 1.11.1942), М. І. *Пліс* (з 7.4.1943); члены: І. М. Рабцаў (да 5.9. 1942), В. І. *Лузгін* (да чэрв. 1944), М. П. *Шмыроў* (18.9.1943 — чэрв. 1944), С. В. Юрын (да 5.9.1942), В. Я. Каган (1.11.1942 — 8.2.1943). Базіраваўся ў прыфрантавой палосе на неакупіраванай тэрыторыі (гл. *Віцебскія «вароты»*). Друкаваны орган — газ. *«Віцебскі рабочы»*.

Для аператыўнага кіраўніцтва парт. падполлем і партыз. рухам абком КП(б)Б падзяліў вобласць на 4 зоны: Аршанскую (адказны арганізатар Г. Дз. Рэзнікаў), Віцебскую (В. Р. Кудзінаў), Лепельскую (К. П. Бажанок), Полацкую (Б. І. Мажайскі). Пры адказных арганізатарах працавала па 3—5 інструктараў. У тыле ворага падоўгу знаходзіліся сакратары падп. абкома, асабліва Жылянін і Пазнякоў. Абком вырашаў пытанні расстаноўкі кадраў, росту парт. радоў у партыз. фарміраваннях, удасканалення структуры партыз. сіл, баявой дзейнасці партызан і падпольшчыкаў, распрацоўваў найб. буйныя баявыя аперацыі, арганізоўваў агітацыйную і прапагандысцкую работу, дастаўку і распаўсюджанне газет і лістовак сярод насельніцтва ў тыле праціўніка. *М. У. Дарафеенка.*

**ВІЦЕБСКІ ПАДПОЛЬНЫ АБКОМ ЛКСМБ.** Створаны *Віцебскім падпольным абкомам КП(б)Б* і *Цэнтральным Камітэтам ЛКСМБ* і працаваў пад іх кіраўніцтвам з 8.3.1942 да 26.6.1944. Узначальваў дзейнасць *Віцебскага падпольнага гаркома ЛКСМБ*, 20 падп. райкомаў Віцебскай вобл., 814 тэрытарыяльных, 533 пярвічных камсам. арг-цый у партыз. фарміраваннях, усяго больш за 12 тыс. камсамольцаў. На тэрыторыі вобласці камсамольскім падполлем кіравалі сакратары ЦК ЛКСМБ: М. В. *Зімянін*, К. Т. *Мазураў*, С. В. *Прытыцкі*, Ф. А. *Сурганаў*. У розны час ў 1942—43 тут працавалі чл. бюро ЦК ЛКСМБ М. П. *Барашкаў*, інструктары ЦК ЛКСМБ па падп. рабоце Т. І. Гаварэнь (Прытыцкая), Г. Ф. Шастакоў. Бюро абкома: Я. А. *Жылянін* [з 17.7.1942, сакратар Віцебскага падп. абкома КП(б)Б], В. І. *Лузгін* [17.7.1942—25.5.1944, чл. Віцебскага падп. абкома КП(б)Б], Н. С. Самуйлава (з 17.7. 1942, чл. ЦК ЛКСМБ), Ф. А. *Башкінцаў* (31.7.1942—30.11. 1943), А. А. Быкава (31.7.1942 — 30.11.1943, чл. ЦК ЛКСМБ), І. Ф. *Канарскі* (з 19.12.1943), В. Н. *Пазняк* (з 1.12.1943), А. П. *Жаўнерка* (з 31.7. 1943); сакратары: Лузгін (да 25.5. 1944, 1-ы сакратар, чл. ЦК ЛКСМБ), Башкінцаў (30.7.1942—30.11.1943), Жаўнерка (з 31.7.1943), Пазняк (з 1. 12.1943), Канарскі (з 19.12.1943), члены: Жаўнерка, В. Ц. Радкевіч (з 1.5.1942), А. А. Казюля, Пазняк, Самуйлава (усе трое з 1.6.1942), А. М. Шкурынава (1.6.1942—18.7. 1943, загінула), Ф. К. Падскочая (1.5—1.10.1943, чл. ЦК ЛКСМБ), В. П. Маркоўская (з 1.10.1943), А. М. Нямыкін (з 1.4.1944); інструктары на падп. рабоце: Нямыкін (8.3.1942—1.4.1943), Н. Л. Герман (1.7—30.9.1942), М. П. Мацкевіч (13.7.1942—4.1.1944), В. К. Шабуня (1.1—26.6.1943), М. Я. Майзіт (1.3—1.8.1943), Маркоўская (1.5—1. 10.1943), А. І. Кандрацкая (16.6. 1943—10.3.1944), В. П. Карпушэнка (з 1.8.1943), В. А. Кулікава (1.9. 1943—1.4.1944), Н. В. Паўлоўская (з 10.9.1943); лектар абкома В. І. Розін (15.6.1942—1.10.1943).



Віцебскі абласны музей Героя Савецкага Саюза М. П. Шмырова. Фрагмент экспазіцыі.

Летам 1942 створаны 4 зоны (Аршанская, Віцебская, Лепельская, Полацкая); кіраўнікі: Жаўнерка, Радкевіч, Пазняк, Шкурынава, Маркоўская. Паводле рашэння бюро абкома (пач. 1943) з маладых партызан у кароткі тэрмін падрыхтавана каля 5 тыс. кулямётчыкаў, мінамётчыкаў, артылерыстаў, снайпераў, мінёраў, створана 263 камсам. дыверсійныя групы. 5.4.1943 абком правёў у в. Клясціцы Расонскага р-на міжраённую камсам. канферэнцыю (85 дэлегатаў ад камсам. арг-цый партыз. брыгад).

Базіраваўся ў прыфрантавой пало-

се на неакупіраванай тэрыторыі, на ПнУ ад Суража Віцебскай вобл., з 8.3.1942 у партыз. атрадзе М. П. Шмырова, у інш. партыз. атрадах і брыгадах Віцебскай вобл.

У в. Клясціцы ў гонар камсамольскай канферэнцыі ў 1969 устаноўлена мемар. дошка.

*В. І. Лузгін, Р. М. Шавяла.*

**ВІЦЕБСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ ГАРКО́М КП(б)Б.** Дзейнічаў з 7.4 да 28.10.1943 пад кіраўніцтвам *Віцебскага падпольнага абкома КП(б)Б.* Узначальваў *Віцебскае партыйна-камсамольскае падполле*, барацьбу працоўных Віцебска супраць ням.-фаш. захопнікаў, наладзіў сувязь падполля з партыз. атрадамі, арганізоўваў забеспячэнне падпольшчыкаў узрыўчаткай, літаратурай, удзельнічаў у распрацоўцы сумесных баявых аперацый падпольшчыкаў і партызан. Накіроўваў работу *Віцебскага падпольнага гаркома ЛКСМБ.* Сакратар гаркома В. Р. Кудзінаў (з вер. 1943 адначасова камісар *партызанскай брыгады 1-й Віцебскай*), члены: М. І. Мацэнка, Б. К. Сямёнаў (да мая 1943). Базіраваўся ў размяшчэнні 1-й Віцебскай партыз. брыгады.

Да стварэння гаркома з ліп. 1941 да мая 1942 у горадзе працаваў сувязны абкома КП(б)Б, б. сакратар Чыгуначнага РК КП(б)Б г. Віцебска І. Г. Грыгор'еў. 24.5.1942 упаўнаважаным падп. абкома КП(б)Б, адказным арганізатарам па Віцебскай зоне раёнаў, уключаючы г. Віцебск, зацверджаны Кудзінаў, з 15.9.1942 ён адказны арганізатар толькі па горадзе. У жн. 1942 для арганізацыі шырокай падп. барацьбы і стварэння кіруючага парт. цэнтра ў горад накіравана В. З. *Харужая.* З 1.11.1942 у Віцебску працавала інструктар падп. абкома КП(б)Б Мацэнка. А. С. *Панамарова.*

**ВІЦЕБСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ ГАРКО́М ЛКСМБ.** Дзейнічаў з 1.6.1942 да 28.12.1943 пад кіраўніцтвам *Віцебскага падпольнага абкома ЛКСМБ* і *Віцебскага падпольнага гаркома КП(б)Б.* Кіраваў дзейнасцю падп. камсам.-маладзёжных арг-цый і груп Віцебска. Сакратар гаркома Н. С. Самуйлава, чл. ЦК ЛКСМБ; члены: А. М. Нямыкін, А. Я. *Белахвосцікаў* (да 5.5.1943, загінуў), Е. А. Крыцкая (да ліп. 1943). Асноўная база знаходзілася ў Віцебскім р-не ў *партызанскай брыгадзе 1-й Віцебскай.*

*Р. М. Шавяла.*

**«ВІЦЕБСКІ РАБО́ЧЫ»,** газета, заснавана ў 1917 пад назвай «Известия Военно-революционного комитета города Витебска». У перыяд ням.-фаш. акупацыі орган Віцебскіх падп. абкома і гаркома КП(б)Б, абл. і гар. Саветаў дэп. працоўных. Выдавалася на бел. мове на акупіраванай тэр. ў в. Булы Суражскага р-на, а потым у сав. прыфрантавой палосе. Перыядычнасць у асн. 1 раз на тыдзень. Тыраж 6—7 тыс. экз. Выпушчана больш за 100 нумароў (з 7.6.1942 да 24.6.1944). Рэдактары: В. Е. *Самуцін* (да 23.4.1943), А. С. Крушынскі (з 28.5.1943). Адказныя за выпуск № 165 і № 166 (1942) М. Унукаў, № 22, 23, 30, 32, 40, 44 (1944) М. Рымар. Пасля вызвалення выдаецца пад той жа назвай, орган Віцебскіх абкома і гаркома КПБ, абл. і гар. Саветаў нар. дэпутатаў.

**ВІЦЕБСКІЯ ВАЙСКО́ВЫЯ ЗЛУЧЭ́ННІ І ЧА́СЦІ.** За прарыў Віцебскага ўмацаванага раёна і вызваленне г. Віцебск (26.6.1944) у ходзе *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944* паводле загадаў ВГК ад 2 і 10 ліп. 1944 найменне «Віцебскіх» атрымалі 62 злучэнні і часці 39-й, 43-й і 1-й паветр. армій 3-га Бел. і 1-га Прыбалт. франтоў:

Часці і злучэнні, якім нададзены найменні «Віцебскіх»: 1-ы гвардз. бамбардзіровачны авіякорпус (ген.-лейт. У. А. Ушакоў), 31-я (ген.-маёр І. К. Шчарбіна), 51 (ген.-маёр С. В. Чэрнікаў), 67 (ген.-маёр А. І. Баксаў), 71 (ген.-маёр І. П. Сівакоў), 90 (ген.-маёр В. Я. Уласаў) гвардз. стралк. дывізіі, 51 (ген.-маёр А. Я. Хвастоў), 63 (ген.-маёр М. М. Ласкін), 88 (палк. Ф. Т. Каўтуноў), 97 (палк. Ф. Ф. Шышоў), 145 (ген.-маёр П. А. Дыброва), 159 (ген.-маёр М. В. Калінін), 164 (палк. Р. І. Сініцын), 179 (палк. М. М. Шкурын), 204 (палк. К. М. Байдак), 235 (палк. І. Л. Луцкевіч), 251 (ген.-маёр А. А. Вольхін), 334 (палк. В. Ц. Гнедзін), 371-я (ген.-маёр В. Л. Аляксеенка) стралк. дывізіі, 3-я гвардз. арт. дывізія прарыву (ген.-маёр П. М. Ражанові), 33-я зенітная арт. дывізія (палк. У. А. Гацко), 8-я пушачная арт. дывізія (палк. П. Р. Сцепаненка), 213-я начная бамбардзіровачная авіядывізія (ген.-маёр В. С. Молакаў), 332-я (палк. М. І. Ціхаміраў) і 335-я (палк. С. С. Аляксандраў) штурмавыя авіядывізіі, 2-я гвардз. танк. брыгада (палк. Я. Я. Духоўны), 34-я асобная танк. брыгада (палк. С. П. Садоўскі), 39-я асобная гвардз. танк. брыгада (палк. І. П. Калінін), 37-я гвардз. пушачная арт. брыгада (палк. С. І. Міронаў), 139-я армейская пушачная арт. брыгада (палк. Дз. Г. Лук'янаў), 5-я (палк. М. К. Сцячышын) і 10-я (палк. Я. І. Кучарук) штурмавыя інж.-сапёрныя брыгады, 136-ы (маёр С. Р. Хамідулін), 226 (маёр Г. А. Зубараў), 631 (падпалк. К. Дз. Дзмітрыеў), 850-ы (палк. Дз. К. *Марозаў*) і 1233-і (маёр Ц. А. Барынаў) стралк. палкі, 337-ы гвардз. танкавы самаходна-арт. полк (падпалк. А. І. Кукін), 395-ы гвардз. цяжкі самаходна-арт. полк (палк. П. І. Бурачэнка), 735-ы (падпалк. С. Ц. Кесараў) і 954-ы (падпалк. І. У. Жог) самаходна-арт. палкі, 610-ы знішчальны процітанк. полк (падпалк. І. В. Ільічоў), 1224-ы гаўбічна-арт. полк (падпалк. І. В. Міхайлаў), 95-ы гвардз. мінамётны полк (падпалк. М. І. Навуменка), 283-і (падпалк. С. М. Нікіцін) і 555-ы (падпалк. А. У. Кіян) армейскія мінамётныя палкі, 15-ы начны бамбардзіровачны авіяполк (маёр В. С. Епанчын), 18-ы гвардз. знішчальны авіяполк (падпалк. А. Е. *Голубаў*), 135-ы (падпалк. Р. М. Карзіннікаў), 893-і (падпалк. І. І. *Пстыга*) і 953-і (маёр С. Ф. Добрых) штурмавыя авіяпалкі, 11-ы асобны разведвальны авіяполк (маёр Г. А. Марцьянаў), 21-ы знішчальны авіяполк (падпалк. І. М. Нестаянаў), 811-ы (маёр С. С. Высакосаў), 826-ы (падпалк. В. Г. Болатаў) і 949-ы (падпалк. А. П. Шкулепаў) штурмавыя авіяпалкі, 35-ы (падпалк. І. А. Агееў) і 81-ы (палк. А. Ф. Радзіёнаў) асобныя палкі сувязі, 17-ы (капітан А. І. Цімчанка) і 18-ы (маёр У. А. Рускіх) асобныя штурмавыя інжынерна-сапёрныя батальёны, 86-ы асобны полк сувязі (палк. І. Л. Ткачэнка) і 404-ы асобны лінейны батальён сувязі (маёр П. М. Півавар). Войскам, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Віцебска, загадам ВГК ад 26.6.1944 аб'яўлена падзяка, у Маскве дадзены салют 20 арт. залпамі з 224 гармат.

*М. І. Камінскі.*

**ВІЦЕБСКІЯ «ВАРО́ТЫ»,** Суражскія «вароты», 40-кіламетровы пралом у лініі фронту на стыку ням.-фаш. груп армій «Поўнач» і «Цэнтр» паміж Веліжам і Усвятамі, які стварыўся ў выніку наступлення сав. 4-й ударнай арміі Калінінскага фронту ў ходзе Тарапецка-Холмскай аперацыі (9.1—6.2.1942) і вызвалення прыфрантавых раёнаў партызанамі атрадаў М. Ф. *Бірuліна*, М. І. *Дзячкова*, М. П. *Шмырова*, Я. З. *Захарава*. В. «в.» дзейнічалі з 10.2 да 28.9.1942. Подступы ўтрымлівалі часці 4-й ударнай арміі і партыз. брыгады 1-я і 2-я Беларускія. Праз «вароты» партызаны падтрымлівалі кантакты з Віцебскім абкомам КП(б)Б і аблвыканкомам, якія размяшчаліся на тэр. Усвяцкага і Веліжскага р-наў Смаленскай вобл., з Паўн.-Зах. аператыўнай групай ЦК КП(б)Б, камандаваннем 4-й ударнай арміі; у тыл ворага накіроўваліся арганізатарскія і дыверсійныя групы, зброя, боепрыпасы, медыкаменты, літаратура; з акупіраванай тэр. выходзілі партыз. атрады на перафарміраванне, добраахвотнікі, каб уступіць у Чырв. Армію, насельніцтва, якое ратавалася ад карнікаў (эвакуіравана ў сав. тыл каля 200 тыс. чал.— жанчын, старых, дзяцей), ішлі абозы з прадуктамі ў фонд Чырв. Арміі, у маі — чэрв. 1942 партызаны 1-й Бел. брыгады сабралі і пераправілі ў Сав. фонд абароны каштоўнасці на 7 млн. руб.

Гітлераўцы неаднойчы спрабавалі ліквідаваць «вароты». У пач. вер. 1942 яны сцягнулі ў гэты раён вял. сілы пяхоты з артылерыяй і танкамі, у ноч на 25.9.1943 пачалі наступаць. Найбольш жорсткія баі партызаны вялі каля в. Пунішча, Пудаць, Булы Суражскага р-на, Дразды, Шмыры, Мялыні Усвяцкага р-на Смаленскай вобл. Атрад імя Курмялёва суткі трымаў абарону супраць суражскай групоўкі праціўніка каля в. Пунішча, знішчыў каля 300 карнікаў, 2 танкі і толькі з-за недахопу боепрыпасаў адышоў на новыя абарончыя рубяжы. 27 вер. ўвесь дзень ішлі баі ў раёне вёсак Шмыры і Мялыні, і толькі ўначы, пасля інтэнсіўнай арт. падрыхтоўкі, праціўніку ўдалося заняць в. Мялыні; 28 вер. карнікі занялі вёскі Шмыры, Шэршні, Карпекіна і інш. і закрылі В. «в.»

У памяць аб баявых дзеяннях сав. воінаў і партызан у в. Заполле Віцебскага р-на пастаўлены помнік (скульпт. В. Ягадніцкі), які сімвалізуе В. «в.». *І. П. Хайратовіч.*

**ВО́ЗЕМЛЯНСКІ БОЙ 1941,** бой паміж партыз. атрадам «Чырвоны Кастрычнік» (гл. ў арт. *Партызанская брыга-*

*да 123-я Акцябрская імя 25-годдзя БССР*) сумесна з падраздзяленнем Чырвонай Арміі (камандзір падпал. Л. В. Курмышоў) і ням.-фаш. захопнікамі ў в. Возерня Акцябрскага р-на 18.7.1941.

Партызанская разведка ўстанавіла сілы праціўніка і дакладнае размяшчэнне яго агнявых сродкаў. 18.7. 1941 па чыг. ветцы Бабруйск — Рабкор бранепоезд № 52 (лейт. Калакольцаў) нечакана для гітлераўцаў падышоў да в. Возерня і адкрыў арт. агонь па штабе ням. дывізіі і агнявых кропках ворага. Пасля арт. абстрэлу зводны атрад чырвонаармейцаў і партызан пад камандаваннем інструктара райкома партыі С. В. Маханько атакаваў праціўніка. У выніку бою праціўнік страціў забітымі каля 80 салдат і афіцэраў, была вызвалена в. Возерня. Партызаны захапілі палонных і значныя трафеі: 55 бронеі аўтамашын, 2 радыёстанцыі, 27 матацыклаў, 45 коней з павозкамі і грузам, апаратыўныя дакументы ням. штаба. Захопленых палонных, дакументы і трафеі перадалі камандаванню сав. войск. *М. Ф. Шумейка.*

**ВО́ЗЕРСКАЕ ПАТРЫЯТЫ́ЧНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з сак. 1942 да чэрв. 1943 у в. Возера Уздзенскага р-на, састаўная ч. *Уздзенскага партыйнага падполля.* Кіруючае ядро: Е. М. Курбыка (кіраўнік), І. А. Лукашэвіч, Дз. К. Малашка, І. А. Манькоўскі, Н. Ф. Рыдзеўскі, С. І. Клімовіч.

Падпольшчыкі з ліст. 1942 праз Курбыку трымалі сувязь з *Мінскім партыйным падполлем,* з партыз. атрадам імя 25-годдзя Кастрычніка, распаўсюджвалі падп. газ. «Звязда», зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі, вялі разведку, здабывалі для партызан зброю, медыкаменты і харчы. У ліст. 1942 разам з партызанамі захапілі ў акупантаў нарабаваныя збожжа і крухмал; у снеж. 1942 перадалі праз Лукашэвіча ў атрад імя 25-годдзя Кастрычніка шмат боепрыпасаў, пішучую машынку; 21.6.1943 з партызанамі разграмілі гарнізон на крухмальным з-дзе «Каралёва», захапілі шмат харчоў, зброю і боепрыпасы, узялі ў палон ням. афіцэра і 27 паліцэйскіх.

У барацьбе з акупантамі загінулі: У. У. Дэядзюля, С. І. Клімовіч, Е. М. Курбыка, С. М. Курбыка. *А. І. Валахановіч.*

**ВО́ЗЛІКАЎ** Аляксандр Піліпавіч (1922, в. Тварышчана Клінцоўскага р-на Бранскай вобл.—25.6.1944), Герой Сав. Саюза (1944). На фронце з 1942. Камандзір аддзялення сяржант В. вызначыўся пры вызваленні Віцебскай вобл. 25.6.1944 з групай разведчыкаў пад агнём праціўніка пераправіўся цераз Зах. Дзвіну каля в. Малыя Шчэцькі, на плацдарме з 3 байцамі за 8 гадзін адбіў 4 варожыя контратакі, што садзейнічала пераправе асн. сіл. Загінуў у гэтым баі. Пахаваны ў в. Галыні Бешанковіцкага р-на ў брацкай магіле сав. воінаў і партызан.

**ВО́ЛАХ** Анатоль Аляксандравіч (1917, Мінск — 1.10.1943), Герой Сав. Саюза (1943). З 1941 на Паўд.-Зах. і Варонежскім франтах. Сяржант В. 21.8.1943 з групай разведчыкаў знішчыў 2 і захапіў у палон 1 ням. афіцэра. У вер. 1943 пры вызваленні г. Лебядзін Сумскай вобл. на бранявіку ў ліку першых уварваўся ў горад і вёў бой з ворагам. Загінуў у разведцы на шляху да Дняпра. Пахаваны ў г. Лебядзін. Яго імем названы вуліцы ў гарадах Лебядзін, Мінск.

**«ВО́ЛЬНАЯ ПРА́ЦА»,** газета, заснавана ў 1939. У час ням.-фаш. акупацыі орган Слонімскага падп. РК КП(б)Б. Вядома 30 нумароў за 12.10.1943—7.7.1944 на бел. мове. Рэдактары: М. Т. Анішчык, М. В. Бурсевіч (з мая 1944). Пасля вызвалення выдавалася пад той жа назвай, з 1962 — «За перамогу камунізма», орган Слонімскага РК КПБ, раённага і гар. Саветаў нар. дэпутатаў.

**ВО́РАНАВА,** гар. пасёлак, цэнтр Воранаўскага р-на, за 123 км на ПнУ ад Гродна, за 1 км ад чыг. станцыі Воранава на лініі Ліда — Вільнюс, на аўтадарозе Вільнюс — Ліда. Акупіравана ням.-фаш. захопнікамі 23.6.1941, якія 14.11.1941 і 11.5.1942 расстралялі тут больш за 2600 мясцовых жыхароў пасёлка і Вільнюса. На тэр. раёна ў перыяд акупацыі дзейнічалі Воранаўскі падп. РК ЛКСМБ (1.12.1943—7.7.1944), *партызанская брыгада імя С. М. Кірава.* Вызвалена 11.7.1944 часцямі 192-й стралк. дывізіі (ген.-маёр Р. Г. Маскутаў) 71-га стралк. корпуса 31-й арміі 3-га Бел. фронту ў перыяд *Вільнюскай аперацыі 1944.* У В. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, магілы ахвяр фашызму, магіла сав. воіна, на іх пастаўлены помнікі. *М. І. Камінскі.*

**ВО́РАНАЎ** Сцяпан Трафімавіч (12.1. 1906, в. Вірок Гарадоцкага р-на — 22.10.1959), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1940. З 1931 на гасп. рабоце ў Віцебскай вобл. У партызанах з ліст. 1941: з чэрв. 1942 камандзір атрада, у вер. 1942 — ліст. 1943 *партызанскай брыгады імя М. І. Кутузава,* адначасова чл. Гарадоцкага падп. РК КП(б)Б. З снеж. 1943 на сав. і гасп. рабоце.

**«ВПЕРЕД, НА ВРАГА́»,** газета, орган *Браньскага падпольнага міжрайкома КП(б)Б.* Вядома 6 нумароў за 1.1—28.6.1944 на рус. і польскай мовах.

**«ВПЕРЕД НА ВРАГА́»,** выданне маладзёжнай антыфашысцкай газеты *«Молодой партизан»* Беластоцкай вобл. Вядомы 1 нумар ад 20.6.1944.

**ВУ́СЦЕ,** вёска на тэр. Гарадоцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на З ад в. Асмата Халамерскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыў 71 чал. У ліст. 1942, у час карнай аперацыі *«Клетка малпы»,* фашысты загубілі 23 жыхароў, вёску (14 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ВЫВАЗ НА ФАШЫ́СЦКУЮ КА́ТАРГУ,** насільная адпраўка ням.-фаш. акупацыйнымі ўладамі сав. грамадзян на прымусовыя работы ў Германію.

Правал планаў *«маланкавай вайны»,* значныя страты ў жывой сіле на сав.-германскім фронце патрабавалі мабілізацыі ў вермахт усё большых чалавечых рэсурсаў, што пазбаўляла прамысловасць і сельскую гаспадарку фаш. Германіі рабочых рук. Гэты недахоп гітлераўскія правіцелі імкнуліся папоўніць за кошт



А. П. Возлікаў. А. А. Волах.



Помнік у гонар Віцебскіх «варот» у в. Заполле Віцебскага раёна.

асоб, гвалтоўна вывезеных з акупіраванай тэр. СССР.

Вываз на фаш. катаргу з'яўляўся часткай злачыннага *акупацыйнага рэжыму* і меў на мэце: атрымаць дармавую рабочую сілу, падарваць базу росту партыз. атрадаў. Ужо ў ліст. 1941 было дадзена ўказанне па выкарыстанню «рускай рабочай сілы» ў Германіі. У пач. 1942 пастаўлена за-

дача вывезці на прымусовыя работы ў Германію з акупіраваных абласцей СССР 15 млн. чал. Гаспадарчай інспекцыі групы армій «Цэнтр» і генеральнай акрузе «Беларусь» прадпісвалася штодзённа пасылаць у рэйх па 500—1000 рабочых. Вываз на фаш. катаргу ажыццяўлялі спец. ведамствы на чале з генеральным упаўнаважаным па выкарыстанню рабочай сілы, войскі і паліцыя. Фашысты арганізоўвалі на сав. людзей аблавы, хапалі працаздольных мужчын, жанчын і падлеткаў, пад канвоем адпраўлялі ў перасыльныя лагеры, жорстка здзекаваліся. У Мінску знаходзілася спец. ваен. каманда групы армій «Цэнтр», якая непасрэдна займалася адпраўкай падлеткаў на ваен. прадпрыемствы Германіі. У цэлым гітлераўцам удалося захапіць і вывезці ў Германію з акупіраваных абласцей СССР каля 5 млн. чал., у т. л. з Беларусі каля 380 тыс. чал. У снеж. 1943 часці вермахта і паліцыя пачалі выконваць распараджэнне фаш. верхаводаў аб адпраўцы на прымусовыя работы ўсіх працаздольных, уключаючы дзяцей 10-гадовага ўзросту. Гэта злачынная акцыя была разлічана на падрыў біялагічнага патэнцыялу нашага народа. Умовы жыцця і працы сав. людзей у Германіі былі выключна цяжкімі. Яны рэгламентаваліся спец. інструкцыяй, у якой гаварылася, што «ўсе рабочыя павінны атрымліваць такую ежу і такое жыллё і падвяргацца такому абыходжанню, якія давалі б магчымасць эксплуатаваць іх у самай высокай ступені і пры самых мінімальных затратах». Сярод вывезеных былі шматлікія захворванні і вял. смяротнасць. Ратаванне сав. людзей ад вывазу ў фаш. рабства было адной з важнейшых задач падп. парт. органаў, партызан і падпольшчыкаў. ЦК КП(б)Б, СНК і Прэзідыум ВС БССР у звароце да насельніцтва рэспублікі 6.2.1943 раскрывалі злавесныя намеры гітлераўцаў па масавым вынішчэнні і вывазе сав. людзей у Германію. 21.9.1943 ЦК КП(б)Б разаслаў падп. парт. органам і партыз. камандаванню дырэктыву «Аб задачах падпольных партыйных арганізацый і партызанскіх атрадаў Беларусі па ратаванню насельніцтва ад вынішчэння і вывазу ў рабства пры адступленні нямецкіх войск», у якой патрабаваў усімі даступнымі сродкамі ахоўваць насельніцтва, падкрэсліваў, што выратаванне народа ад знішчэння і вывазу ў рабства будзе гіст. заслугай партыз. руху на Беларусі. Падпольшчыкі і партызаны праводзілі растлумачальную работу сярод насельніцтва, своечасова папярэджвалі пра небяспеку, знішчалі «біржы працы», з дапамогай урачоў-патрыётаў дабіваліся вызвалення сав. людзей ад вывазу на катаргу шляхам выдачы фіктыўных даведак аб захворваннях, знішчалі канвоі, якія суправаджалі калоны з сав. людзьмі, нападалі на чыг. эшалоны, у якіх акупанты везлі асуджаных на катаргу, вызвалялі насельніцтва з фаш. лагераў, выводзілі з гарнізонаў і бралі пад сваю ахову. У партыз. зонах і ў лясах ствараліся т. зв. «лясныя» (сямейныя) лагеры. На ахове такіх лагераў на Беларусі было занята 70 тыс. партызан. На тэр. Мінскай вобл. партызаны ўкрывалі каля 70 тыс. жыхароў Мінска, Барысава, Слуцка, інш. гарадоў і вёсак. Усяго нар. мсціўцы вобласці выратавалі каля 570 тыс. сав. грамадзян, якія пакінулі сваё месца жыхарства. Частка насельніцтва з акупіраванай тэр. рэспублікі была праз лінію фронту перапраўлена ў сав. тыл. Толькі ў кастр.— снеж. 1943 разам з партызанамі Беларусі выйшлі за лінію фронту больш за 40 тыс. сав. грамадзян. Усяго з акупіраванай тэр. рэспублікі ў сав. тыл перапраўлена каля 90 тыс. чал. З прыходам сав. войск на тэр. Германіі пачалося вызваленне і вяртанне сав. людзей на Радзіму. *У. І. Лемяшонак.*

М. А. Высагорац. У. Высоцкі.




Знакі, якія насілі савецкія грамадзяне, вывезеныя ў Германію: 1 — агульны для ўсіх савецкіх грамадзян; 2 — для рускіх; 3 — для беларусаў; 4 — для ўкраінцаў.

**ВЫДРЫЦКІ БОЙ 1942,** бой аб'яднаных сіл партыз. атрадаў 128-га (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 14-я Цемналеская*), Г. Я. Сарокі (пазней атрад імя Варашылава *партызанскай брыгады імя М. А. Шчорса*), узвода 277-га атрада (пазней *партызанскі полк 277-ы*), групы падпалк. Чырвонай Арміі А. К. Спрогіса супраць ням.-фаш. захопнікаў у в. Выдрыца Крупскага р-на 11.9.1942.

Выдрыцкі гарнізон (больш за 90 гітлераўцаў) разам з гарнізонамі ў г. п. Крупкі і в. Вяляцічы Барысаўскага р-на ўваходзіў у сістэму абароны праціўніка, забяспечваў сплаў лесу па р. Бобр і бяспеку руху транспарту на ўчастку чыгункі Барысаў — Крупкі. У ноч на 11 верасня партызаны атрада імя Варашылава (камандзір Г. Я. Сарока) і ўзмоцнены ўзвод 128-га партыз. атрада перакрылі засадамі дарогі ад в. Выдрыца на в. Вяляцічы і г. п. Крупкі. Тры штурмавыя групы партызан пад камандаваннем В. П. Свістунова, Ф. В. Юданава і Спрогіса (каля 70 чал.) перайшлі раку ўброд за 2 км ад в. Выдрыца і на досвітку пад прыкрыццём шчыльнага агню атакавалі гарнізон. Гітлераўцы ўпарта супраціўляліся, адстрэльваліся з казарм і дзотаў. У разгары бою каля аднаго з дзотаў па-геройску загінула камандзір дыверсійнай групы А. Ф. *Колесава*. Праціўнік шалёна абараняўся, але яго супраціўленне было зламана. Вораг страціў забітымі і параненымі 42 салдат і афіцэраў. *А. І. Валахановіч.*

**«ВЫПАЛЕНАЯ ЗЯМЛЯ»,** палітыка і тактыка планамернага спусташэння ням.-фаш. захопнікамі акупіраванай тэр. СССР. Татальнае спусташэнне сав. зямлі, масавае вынішчэнне і вываз людзей у рабства былі ўзведзены ў ранг дзярж. палітыкі гітлераўскай Германіі. Гэта палітыка вынікала з чалавеканенавісніцкай фаш. ідэалогіі і планаў германскага мілітарызму, была загадзя распрацавана ва ўсіх дэталях, праводзілася з першых дзён фаш. акупацыі. Найбольш моцна яна праявілася ў перыяд *карных аперацый* ням.-фаш. захопнікаў і іх адступлення з тэр. СССР. Характэрны элемент такой тактыкі — знішчэнне вёсак і інш. населеных пунктаў разам з жыхарамі. На Беларусі з 9200 сёл і вёсак, разбураных і спаленых гітлераўцамі ў гады вайны, больш за 5290 знішчана разам з усім або з часткай насельніцтва.

Напрыклад, у Віцебскай вобл. акупанты спальвалі 243 вёскі двойчы, 83— тройчы, 22 — чатыры і болей разоў; у Мінскай вобл. двойчы былі спалены 92 вёскі, тройчы — 40, чатыры разы — 9, пяць і болей разоў — 6 вёсак.

Ажыццяўляючы палітыку татальнага грабяжу, фашысты знішчылі і вывезлі ў Германію больш за 10 тыс.

прамысловых прадпрыемстваў, разрабавалі 10 тыс. калгасаў, 92 саўгасы, адправілі ў Германію 2,8 млн. галоў буйной рагатай, 5,7 млн. галоў дробнай жывёлы. У сельскай мясцовасці рэспублікі было спалена 1,2 млн. пабудоў, у т. л. 500 тыс. калгасных і грамадскіх будынкаў і больш за 420 тыс. дамоў калгаснікаў і сялян-аднаасобнікаў. Цэлыя раёны ў Беларусі акупанты ператварылі ў пустыні.

Так, у Суражскім р-не з 346 вёсак засталося толькі 5, у Лельчыцкім р-не з 7562 дамоў сельскіх жыхароў уцалела 32. Асвейскі р-н быў спалены амаль поўнасцю, а насельніцтва знішчана або вывезена ў Германію.

На тэр. Беларусі ням.-фаш. захопнікі закатавалі, павесілі, расстралялі, спалілі жывымі больш за 2 млн. 200 тыс. сав. грамадзян і каля 380 тыс. вывезлі на катаржныя работы ў Германію. Нацысцкую палітыку *генацыду* і «В. з.» выкарысталі амерыканскія імперыялісты ў агрэсіўнай вайне супраць В'етнама, ізраільскія сіяністы супраць Лівана. Гл. таксама *Акупацыйны рэжым. Вываз на фашысцкую катаргу, «Ост», Населеныя пункты Беларусі, знішчаныя разам з жыхарамі ў 1941—44 нямецка-фашысцкімі захопнікамі.*

*В. П. Раманоўскі.*

**ВЫСАГО́РАЦ** Міхаіл Амосавіч [н. 19.11.1920, в. Дукоўшчына (злілася з в. Стрыжава) Бешанковіцкага р-на], Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Віцебскі настаўніцкі ін-т (1940), Маскоўскае ваенна-інж. вучылішча (1941). На фронце з 1941. Удзельнік абароны Масквы, баёў на Калінінскім фронце, пад Курскам, Белгарадам, на Украіне, у Польшчы, штурму Берліна. Камандзір сапёрнага ўзвода, роты капітан В. вызначыўся пры інж. разведцы і будаўніцтве паромнай пераправы цераз р. Днестр (24.3. 1944), мастоў цераз Прут (29.3. 1944), Зах. Буг (19.7.1944), Сан (24.7.1944) і Віслу (1—5.8.1944). З 1947 працуе ў будаўнічых арг-цыях.

**ВЫСО́КАЕ,** горад у Камянецкім р-не. За 40 км на З ад г. Камянец, аўтадарогамі звязана з Брэстам, Камянцом, Пружанамі. 6,1 тыс. жыхароў у 1939. У 1940—62 цэнтр Высокаўскага р-на. З 20.6.1941 у В. размяшчаўся штаб Брэсцкага ўмацаванага раёна, а таксама штаб 49-й стралк. дывізіі. 23.6.1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў горадзе і раёне 1297 чал. На тэр. раёна дзейнічалі Высокаўскі падп. РК ЛКСМБ (снеж. 1943—10.7.1944), асобныя партыз. атрады «За Радзіму», імя Кутузава, імя Тэльмана, «Чэкіст» (гл. адпаведныя артыкулы). Вызвалена 28.7.1944 воінамі 54-й гвардз. (ген.-маёр М. М. Данілаў), 152-й (палк. А. Ц. Кузін) стралк. дывізій 3-га гвардз. стралк. корпуса 28-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе *Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944.* Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, на якой пастаўлены абеліск.

*У. М. Якубоўскі.*

**ВЫСО́ЦКІ** Уладзіслаў (1908—12.10. 1943), удзельнік баёў на Беларусі. Герой Сав. Саюза (1943). Паляк. З мая 1943 у Польскай дывізіі імя Т. Касцюшкі. Намеснік камандзіра батальёна капітан В. вызначыўся ў баях каля в. Леніна Горацкага р-на. Батальён пад яго камандаваннем 12. 10.1943 авалодаў апорным вузлом супраціўлення гітлераўцаў і ўкліні́ўся ў 2-ю лінію абароны ворага каля в. Трагубава (цяпер в. Касцюшкава). Апынуўшыся ў акружэнні, В., каб не трапіць у палон, паканчыў з сабою.

**ВЫ́СТАЎКА УЗО́РАЎ ТРАФЕ́ЙНАЙ ЗБРО́І** ў Мінску, выстаўка ў 1944—47 баявой тэхнікі, зброі, інж. і інтэндантцкай маёмасці ням.-фаш. арміі. Размяшчалася на пляцоўцы каля тыльнага фасада Дома афіцэраў. Былі прадстаўлены самалёты, танкі, самаходная артылерыя, бронетранспарцёры, аўтамашыны, гарматы, мінамёты і інш. тэхніка і ўзбраенне ворага, захопленыя Чырв. Арміяй у баях за вызваленне Беларусі ў чэрв.—ліп. 1944.

Сярод экспанатаў самалёты-знішчальнікі «Ме-109», «ФВ-190», танкі «пантэра» (T-V), «тыгр» (T-VI), самаходная гармата «фердынанд», 6-ствольны мінамёт, адзін з сістэмы варожых умацаванняў Мінска. На стэндах былі прыведзены ў лічбах вынікі баёў за Беларусь. Каля ўвахода на выстаўку як сімвал магутнасці зброі Чырвонай Арміі ўзвышаўся сав. танк «Т-34», устаноўлены ў 1952 у Мінску на п'едэстале каля будынка Дома афіцэраў.

*Я. К. Габец.*

**ВЫЯЎЛЕ́НЧАЕ МАСТА́ЦТВА.** У гады Вял. Айч. вайны майстры мастацтва сваёй творчасцю імкнуліся садзейнічаць разгрому ворага. Многія бел. мастакі, прызваныя ў дзеючую армію, змагаліся са зброяй у руках, працавалі ў франтавым друку, выдавалі лістоўкі, плакаты, малюнкі, якія сталі асновай мастацкага летапісу вайны. Яны змагаліся і ў партыз. атрадах, выязджалі на фронт у ліку мастацкіх брыгад. Патрабаванні ваеннага часу змянілі змест выяўленчага мастацтва, па-новаму вызначылі ўдзельную вагу асобных яго відаў і жанраў. На першы план выйшлі баявыя, агітац. формы мастацтва: плакат, карыкатура, малюнак, баявы лісток. Значнае месца ў бел. выяўленчым мастацтве ваен. часу заняла баявая паліт. і сатырычная графіка. Ужо ў ліп. 1941 у Гомелі выйшаў 1-ы нумар сатырыч. выдання *«Раздавім фашысцкую гадзіну»*, у выпуску якога ўдзельнічалі мастакі З. Азгур, Б. Звінагродскі, В. Казак, А. Шаўчэнка; пазней у ім супрацоўнічалі І. Ахрэмчык, Л. Брадаты, В. Букаты, Г. Вальк, А. Волкаў, М. Гурло, Д. Дубінскі, Дз. Красільнікаў. Выпускаўся таксама сатырыч. лісток *«Партызанская дубінка»*, у стварэнні якога ўдзельнічалі бел. мастакі Ахрэмчык, П. Гаўрыленка, Я. Зайцаў, Я. Красоўскі, М. Філіповіч, графікі з саюзных рэспублік У. Айвазян, А. Вярэйскі, В. Гараеў і інш. Гістарычную і мастацкую каштоўнасць маюць франтавыя малюнкі — партрэты, жанравыя і батальныя сцэны — мастакоў-удзельнікаў вайны, выкананыя з натуры і па назіранню: серыі «Вялікая Айчынная вайна» М. Тарасікава (1943—45), «Па дарогах вайны» Б. Малкіна (1942), «Мае франтавыя таварышы» Н. Воранава (1943), лісты «Вызваленне» (1943), «На захад» (1944) І. Давідовіча, работы М. Абрыньбы, С. Андруховіча, В. Ждана, С. Каткова, У. Садзіна, В. Сахненкі, І. Ціханава, А. Шаўчэнкі і інш. У партыз. атрадах Беларусі арганізоўваліся выстаўкі работ мастакоў-партызан: Л. Бойкі («Слухаюць Маскву», «Засада», «На пасту», усе 1942), М. Гуціева («Партызанскі аэрадром», «З'езд камбрыгаў Ушацка-Лепельскай зоны», абедзве 1944), Г. Бржазоўскага («Хлеб партызанам», «Партызанская пушка», «Партызаны каля кастра», 1943—45), П. Гаўрыленкі («Зямлянка», 1941, «На прывале», 1943, «Пераправа», 1945), С. Раманава («У партызанскай зямлянцы», 1943, «Прывялі «языка» і «Партызаны на прывале», 1944, «Партызанская разведка», 1945), С. Лі, А. Мазалёва, У. Сухаверхава, У. Хрусталёва і інш. Гэтыя малюнкі маюць рэпартажна-дакумент. характар, які перадае напружанасць ваеннага часу з яго спецыфіч. абстаноўкай і дэталямі. У іх адлюстраваны тыповыя вобразы салдат, партызан, камандзіраў і іншых ратных працаўнікоў. У жывапісе на першы план выйшлі жанры партрэта, батальны, бытавы. Сярод работ: «Партрэт маёра Г. В. Семяніхіна» Ахрэмчыка (1943), «Юны партызан» Зайцава (1943), «Партрэт партызанкі Ніны Хахалінай» З. Паўлоўскага (1943), «Партрэт партызана» А. Бархаткова (1943), серыя партрэтаў бел. партызан Ф. Мадорава (1943—44), «Малады партызан» і «Партызан Пётр Кашэ» (1944) Красоўскага і інш. У тэматычных карцінах мастакі стваралі эпізоды баёў, франтавы і партыз. побыт, паказвалі зверствы ням.-фаш. захопнікаў на акупіраванай зямлі, перадавалі мужнасць сав. чалавека ў гады суровых выпрабаванняў: «Твар ворага» Ахрэмчыка (1942), «Па слядах фашысцкіх варвараў» В. Бялыніцкага-Бірулі (1942), «Фашысцкая грабармія ў Беларусі» М. Беляніцкага (1942), «Пераправа» і «Прарыў фашысцкай абароны» (усе 1942), «Партызаны на Палессі» Гаўрыленкі (1943), «Нашы самалёты» (1943), «За Радзіму» (1944) Давідовіча, «За баявой вучобай», «Партызанскі лагер», «Партызанская прысяга», «На заданне» Лі (1943—44), «Заняцце населенага пункта Чырвонай Арміяй» Філіповіча, «У партызанскім штабе К. За-

слонава» Зайцава, «Прадукты партызанам» Р. Кудрэвіч (усе 1943) і інш.

У скульптуры галоўнае месца заняў станковы партрэт. Гераічны пачатак, жыццёвасць, глыбіню індывідуальных характарыстык адлюстроўваюць партрэты Герояў Сав. Саюза Л. М. Даватара (1942, скульптар А. Грубе), М. Ф. Сільніцкага, Ф. А. Смалячкова, М. Ф. Шмырова (усе Азгур), М. Ф. Гастэлы (А. Бембель, усе 1943). У мастацтве ваеннага часу ўвасоблены лепшыя рысы сав. чалавека — адвага, вернасць абавязку, цэльнасць характару; сапраўды гераічнае паказана без гераізацыі, са сціпласцю і прастатой.

У творчасці бел. мастакоў тэатра, якія працавалі разам з трупамі ў розных гарадах Расіі, прыкметна імкненне перадаць грандыёзнасць падзей і перакаканаць у іх сапраўднасці. Сярод работ дэкарацыі А. Марыкса да спектакляў «Фронт» А. Карнейчука (1942) і «Нашэсце» Л. Лявонава (1943), С. Нікалаева да спектакля «Рускія людзі» К. Сіманава (1942; усе ў тэатры імя Я. Коласа), І. Ушакова да спектакля «Фронт» Карнейчука (1942; тэатр імя Я. Купалы), Нікалае-



І. Ахрэмчык. Абаронцы Брэсцкай крэпасці. 1958.



У. Гардзеенка. Салют над Прыпяццю. 1984.



М. Купава. Крокі ў неўміручасць. Подзвіг Трыфана Лук'яновіча. 1984.



В. Грамыка. 1941 год. Над Прыпяццю. 1970.

ва да оперы «Алеся» Я. Цікоцкага (1944, тэатр оперы і балета).

Творы, створаныя ў гэтыя гады, былі паказаны на выстаўцы, прысвечанай 25-годдзю БССР, якая адкрылася ў Маскве ў залах Дзярж. Траццякоўскай галерэі пад дэвізам «Савецкая Беларусь жыве і будзе жыць!» (1944).

Сабраны ў гады Айчыннай вайны канкрэтны фактычны матэрыял стаў асновай развіцця ваеннай тэмы ў бел. выяўленчым мастацтве ў пасляваенны час. Асабліва вялікае месца ў творчасці жывапісцаў, графікаў, скульптараў заняла тэма гераіч. партыз. барацьбы бел. народа супраць ням.-фаш. захопнікаў. Творы першага пасляваеннага дзесяцігоддзя вызначаюцца імкненнем да дакладнай, амаль дакументальнай, перадачы месца дзеяння, знешняга аблічча персанажаў, аксесуараў, канкрэтнасці сюжэтаў. У жывапісе 2-й паловы 1940—50-х г. ваенная тэма раскрывалася галоўным чынам у творах батальнага жанру. Масавы гераізм народа, маральная стойкасць барацьбітоў супраць фашызму знайшлі адлюстраванне ў палотнах «Пахаванне героя» (1946), «Стаяць на-



Л. Шчамялёў. Цяжкія гады. 1965.



Ф. Дарашэвіч. Страляйце, не шкадуйце нас! 1964.



З. Азгур. Партрэт Героя Савецкага Саюза М. Ф. Сільніцкага. 1943.

смерць» (1948), «Абарона Брэсцкай крэпасці ў 1941 годзе» (1950), «Канстанцін Заслонаў» (1957) Зайцава, «Вяртанне партызан з аперацыі» (1946) і «Канстанцін Заслонаў» (1950) Хрусталёва, «Партызаны ў вёсцы» (1946) і «Партызанка ў дазоры» (1947) Лі, «Непакорныя» В. Цвіркі і «Палонных вядуць» А. Шыбнёва (1947), «Дапамога Масквы партызанам» (1947) і «Партызаны ў разведцы» (1948) Я. Ціхановіча, «За родную Беларусь» Сухаверхава, «На партызанскім аэрадроме» Гаўрыленкі, «Партызаны на прывале» Давідовіча (усе 1948), «Абаронцы Брэсцкай крэпасці» Ахрэмчыка, «У партызанскім штабе» Мазалёва, «У беларускіх балотах» І. Стасевіча (усе 1958) і інш. Вызваленню сталіцы Беларусі прысвечана карціна В. Волкава «Мінск. 3 ліпеня 1944 года» (1944—55). Тэма вайны знайшла адлюстраванне і ў жанры пейзажа: «Руіны Інтэрнацыянальнай вуліцы» (1944), «Сляды «рэйкавай вайны» і «Разбітая гармата» (1945) М. Дучыца, «Мінская ўскраіна» (1945) Л. Лейтмана, «Беларусь. Зноў расцвіла вясна» (1947) Бялыніцкага-Бірулі, «Цярэспальскія вароты Брэсцкай крэпасці» (1948) П. Данелія, «Крэпасць пад Бугам» (1957) П. Дурчына, серыі гар. пейзажаў Мінска Цвіркі (1944—46), Брэсцкай крэпасці Зайцава (канец 1940-х г.) і інш. Нават у творах бытавога жанру ўвасабляліся радасць мірнай стваральнай працы, горыч панесеных страт, трывожная атмасфера ваен. гадоў:



Г. Бржазоўскі. Партызаны. 1944—48.





М. Савіцкі. Віцебскія вароты. 1967.
С. Лі. Партызанка ў дазоры. 1947.

«Аднаўленне разбуранага Мінска» (1946) і «Вяртанне» (1958) М. Манасзона, «З зямлянак у новыя дамы» (1948) і «Юныя патрыёты» (1949) М. Аўчыннікава, «У родны калгас» Кудрэвіч (1948), «Важнае паведамленне» А. Гугеля (1949), «За дапамогай да партызан» (1957) і «Вяртанне» (1958) В. Жолтака, «Горад аднаўляецца» Шаўчэнкі (1958), «Векапомныя дні», «Партызанская вясна» А. Сямілетава (1959) і інш. Партрэты удзельнікаў вайны пісалі Ахрэмчык, У. Кухараў, Паўлоўскі, І. Фяцісаў, Цвірка, П. Явіч і інш. У многіх творах 50-х г. дакументальнасць пераходзіць у ілюстрацыйнасць. Разам з тым мастакі імкнуліся да абагульнення і сінтэзу, надаючы сваім творам манументальнасць і ўрачыстасць. Вобразы мужных абаронцаў Радзімы створаны ў творах станковай і манументальнай скульптуры: «За Савецкую Радзіму» і «Герой Савецкага Саюза А. Матросаў» Бембеля (1948), «Паранены воін» (1951) і «На допыце» (1955) В. Палійчука, «Абаронцы Брэсцкай крэпасці» (1951) і «У тыле ворага» (1958) А. Курачкіна, «Герой Савецкага Саюза генерал-маёр Л. М. Даватар» А. Глебава (1955), «Памром, але крэпасць не пакінем!» Ф. Зільберта (1956), «Рэйкавая вайна» (1957) і «Юныя мсціўцы» (1958) С. Вакара, «Партызан-падрыўнік» (1957) і «Дзед Талаш» (1958) А. Заспіцкага, «Апошні бастыён» П. Белавусава (1958). У манумент. скульптуры стараліся галоўным чынам помнікі канкрэтным



У. Кожух. Лясная школа. 1985.

асобам — воінам, партызанам, падпольшчыкам, выдатным военачальнікам: І. І. Якубоўскаму ў г. Горкі Магілёўскай вобл. (1950, К. Кошкін), П. Я. Галавачову ў г. п. Буда-Кашалёва Гомельскай вобл. (1951, Я. Гаўрылаў), С. Ф. Шутаву ў г. п. Глуск Магілёўскай вобл. (1952) і І. І. Гусакоўскаму ў Магілёве (1955, абодва І. Пяршудчаў), Героям Сав. Саюза К. С. Заслонаву ў Оршы (1955) і М. Казею ў Мінску (1958, абодва С. Селіханаў), М. Ф. Гастэлу ў г. п. Радашковічы Маладзечанскага р-на і партызану В. І. Талашу ў Петрыкаве (1958, абодва Азгур). Тэма ўсенароднага подзвігу ў барацьбе супраць фашызму ўвасоблена ў вобразным строі рэльефаў *манумента Перамогі* ў Мінску. Характэрнай рысай пасляваен. графікі было шырокае развіццё малюнка (алоўкам і вуглем), акварэльных эскізаў, эцюдаў, накідаў; некаторыя мастакі звярталіся да лінагравюры, афорту. Сярод найбольш значных работ — створаныя на аснове натурных замалёвак серыя «Партызаны Беларусі» (1952), лісты «Рэйкавая вайна» (1946) і «Герой Савецкага Саюза М. Ф. Шмыроў (Бацька Мінай)» (1948) Раманава; серыя «Брэсцкая крэпасць» Л. Рана (1952) і Дурчына (1957); лісты




В. Карэцкі. «Баец, вызвалі сваю Беларусь!» Плакат. 1943.



У. Уродніч. На хлебным полі. 1984.



С. Вакар. Партрэт Героя Савецкага Саюза М. П. Шмырова. Дрэва. 1969.



В. Сахненка. Гэта наша зямля. 1972.

«У разбураным Мінску» і «Абнаўленне Мінска» (1948) А. Тычыны; «Партызан» (1952), «У штабе Бацькі Міная» (1953) і «Па слядах мінулых баёў» (1954) Мазалёва; «Каля вытокаў партызанскага руху» М. Бельскага (1954). Разбураны Мінск і яго аднаўленне — тэмы работ І. Гембіцкага, С. Геруса, Галоўчанкі, Красоўскага, Лейтмана, П. Любамудрава, Рана, У. Сакалова і інш.

Пачынаючы з 1960-х г. тэма вайны займае адно з вядучых месцаў у жывапісе. Яна знайшла адлюстраванне ў батальным, гістарычным, бытавым жанрах, партрэтах удзельнікаў вайны, а з канца 1960-х г.— у жанрах пейзажа і нацюрморта. Вызначыліся тэндэнцыі, асабліва ў творчасці мастакоў-удзельнікаў вайны, да абагульнення асабістага вопыту і назіранняў, паказу ваен. дзеянняў праз перадачу псіхалагічнага становішча персанажа. Разам з мастацкім адлюстраваннем і асэнсаваннем канкрэтных фактаў ствараюцца маштабныя палотны, у якіх паказаны масавы гераізм народа. Разам з традыц. прыёмамі адлюстравання ўсё большае месца стаў займаць зварот да выяўленчай метафары, алегорый, сімвала. Жывапіс 60-х г. у значнай меры адыходзіць ад прынцыпу апавядання аб









І. Стасевіч. Клятва. 1967.

В. Шаранговіч. Памяці вогненных вёсак. 1979—85. Каляровая аўталітаграфія.

А. Кашкурэвіч. Партызанскія маці. З серыі «Партызаны». 1969.

В. Сумараў. Па родных мясцінах. 1974.

тых ці іншых канкрэтных падзеях. Мастакі імкнуцца да стварэння эпічных палоцен, карцін, звязаных з легендай аб подзвігу. Усё гэта аказвала ўплыў на стылістыку твораў — праяўленне дэкаратыўнасці і абагульненасць малюнка і колеравых плям. Адным з першых твораў, выкананых у гэтай вобразнай сістэме (умоўна названы «суровым стылем»), сталі «Партызаны» М. Савіцкага (1963). Затым з'яўляецца цэлы рад палоцен, у якіх па-грамадзянску мужна даецца ацэнка перажытай вайне, высокая паэтыка абагульненняў аб'ядноўваецца з адчуваннем суровай «акопнай» праўды. Найбольш ярка характэрныя рысы выяўленчага мастацтва тых гадоў праявіліся ў творах М. Савіцкага («Партызанская мадонна», «Віцебскія вароты» і «Партызаны. Блакада», 1967, «Пакаранне смерцю», 1968, «Клятва», 1969), Л. Шчамялёва («Цяжкія гады», 1965, «Маё нараджэнне», 1967), Зайцава (трыпціх «Мая рэспубліка ў агні Айчыннай», 1963—67), В. Грамыкі («Салдаты», 1967, «1941 год. Над Прыпяццю», 1970), І. Стасевіча («Брэсцкая крэпасць», 1961, «Клятва», 1967, «Май. 1945 год», 1968), І. Ціханава («Выхад з блакады», 1969), М. Данцыга («Беларусь — маці партызанская», 1967), А. Малішэўскага («Мы вернемся», 1965 і «Маці партызанская», 1968), П. Крохалева («Адпомсці, сын», 1968), Э. Куфко («Уцёкі», 1961 і «Не забудзем», 1964), М. Залознага («Макі», 1966, і «Салдаткі», 1969) і інш. У выяўленчы летапіс тых гадоў увайшлі таксама палотны «Пасля вайны. Размініраванне». М. Беляніцкага (1961), «Ускладанне вянкоў» (1962), «У дзень Перамогі» (1966) і «У тыле ворага» (1967) Лі, «Я. Купала і К. Чорны ў Печышчах у 1942 годзе» (1963) Х. Ліўшыца, «Страляйце, не шкадуйце нас!» (1964) Ф. Дарашэвіча, «Подзвіг Івана Цубы» Аўчыннікава і «Подзвіг Вольгі Соламавай» Д. Парахні (1964), партрэт Харужай (1965) Пратасені, «Трасцінец» Сямілетава (1965), «Апошні бой К. Заслонава» (1965) і «На змену паўшым» (1966) У. Гоманава, «Вярнуўся» (1966), «Жыццё працягваецца» (1967) і «У фашысцкіх засценках» (1968) У. Лагуна, «На вызваленай зямлі» (1967) М. Назаранкі, «Нарачанская быль» І. Давідовіча, «Сорак першы» А. Бараноўскага, «Віцебшчына. Год 1942» Кухарава (усе 1967), «Абаронцы Брэсцкай крэпасці» У. Пасюкевіча (1968), «Бярозавы сок» М. Палянкова (1968—69), «Партызанскі сувязны» І. Рэя і «Мужнасць» А. Казлоўскага (1969), «Уцёкі з палону» (1963) і «Ішоў салдат, ішоў ...» (1979) Ф. Бараноўскага і інш.



А. Бембель. Партрэт Героя Савецкага Саюза Дз. Ц. Гуляева. 1967.



Р. Сітніца. Маёй зямлі святая слава. З серыі «Хвіліна маўчання». Літаграфія. 1986.



М. Кандрацьеў. Загінуўшых чакаюць вечна. Дрэва. 1979.

У жывапісе 1970—80-х г. адлюстравалася паглыблена-філасофскае асэнсаванне тэмы ўсенароднага подзвігу, паказ гераічнага характару ў момант найвышэйшага праяўлення духоўных і фізічных сіл. У лепшых работах вайна паказана як усеагульная, агульначалавечая барацьба паміж дабром і злом, высокім і нізкім, прыгожым і агідным. Больш актыўным становіцца асабістае, лірычны пачатак, багатая эмацыянальная вобразная афарбоўка твораў. У апавяданні аб падзеях часта прысутнічае ўзнёслая рамантыка, гнеўнае адмаўленне вайны, роздум аб перажытым, драма і смутак. Характэрныя творы гэтага перыяду: «Камсамольцы» (1970), «Дзеці вайны», «Бежанцы» і «Маці партызана» (1972), «Поле» і «Плач па загінуўшых героях» (1974), «Партызанская мадонна (Мінская)» (1978), «Якая ідзе ў ноч» і «Памяці камуністаў-падпольшчыкаў» (1980), «Гадавіна неадроджанай вёскі» (1984) М. Савіцкага; «Жанчынам Вялікай Айчыннай прысвячаецца»

Грамыкі; «Навала. 22 чэрвеня 1941 года» (1978) і «Светлая памяць» (1984) Шчамялёва; «І помніць свет уратаваны...» (1979) і «Вызваленне» (1984) Данцыга; «Легенда» (1975), «Прарыў» (1982), «Памяць» (1983), «Хроніка вясны Перамогі» (1984) Вашчанкі; «Памяць сэрца» (1971) і «Людзі, помніце Хатынь!» (1975) А. Шыбнёва; «Гады вайны» (1970) і «Маці. Пратэст супраць вайны» (1982) А. Малішэўскага; «Суровае юнацтва» (1971), «Бессмяротнасць» (1977) Стасевіча, «Песня пра партызан» (1975) быль» (1979) Пасюкевіча, «3 ліпеня» (1981) Назаранкі, «У дзень Перамогі» (1982) і «Вызваленне Магілёва» (1984) Масленікава, «Вызваленне Мінска ў 1944 г.» Бараноўскага, «Адгрымелі войны» («Эха вайны») Беляніцкага, «Партызанам Беларусі прысвячаецца» Гугеля і Кудрэвіч, «Медсёстры» (1984) А. Малішэўскага, «Быль ваенных гадоў. Год 1941-ы» Рэя (усе 1984), «Нашэсце» (1984) і «Подзвіг беларуса І. Ю. Філідовіча» (1985) П. Свентахоўскага, «Партызанская быль» (1985) М. Чэпіка і інш. Чэпіка. Радасць вялікай Перамогі і разам з тым смутак аб загінуўшых, памяць аб іх раскрываюцца ў нацюрмортах «Аб Вялікай Айчыннай» (1968) і «Вечны агонь» (1974) Данцыга, «Слава подзвігу» (1968) і «У дзень Перамогі» (1978) Лі, «Зялёны май. Перамога» (1973) С. Катковай, «Памяці ...» (1974) Вашчанкі, «Суровыя гады» (1975) Жолтак, «Крэсла бацькі» (1978) Шчамялёва, «Свята Пера-



М. Гуціеў. Вяртанне з аперацыі. 1942. Аловак.



А. Грубэ. Партрэт Героя Савецкага Саюза Л. М. Даватара. 1942

В. Сумарава; «Дзякуй, мама!» (1975) і «З вогненнай вёскі» (1978) Рэя; «9 мая. Удовы» (1973) і «Вярнуўся» (1975) Залознага і інш. Значнае месца ў жывапісе гэтага перыяду займаюць таксама палотны «Незабыўнае» (1975) і «Выхад з акружэння» (1984) Зайцава, трыпціх «Край партызанскай славы» (1978), «Год 1941. Цяжкі час» (1979), «Пераход з Бабініч на Вілейку» (1984), «Возера Чырвонае. Студзень 1943-га» (1985) І. Ціханава; дыпціх «Аб вайне і міры» (1978—83) Крохалева; «Памяць» (1968) Ю. Пучынскага і «Партызанская балада» (1971) Гугеля; «Вызваленне» (1975) Лагуна, «Вясна. 1945 год» (1970) і «Дочкам Айчыны прысвячаецца. Начныя бамбардзіроўшчыкі» (1975) Кудрэвіч; «Ой, бярозы ды сосны...» Лі; «Свяшчэнныя камяні» В. Савіцкага і «Хатынскі набат» У. Міхайлоўскага (1975), «У бессмяротнасць. Андрэй Кіжаватаў» (1978) і «Сталінградцы» (1984) І. Белановіча, «9 мая» (1978), «Вестка аб Перамозе» (1984) Казлоўскага, «Балада аб маці, А. Ф. Купрыянавай» (1984) Л. Асядоўскага, «Канстанцін Заслонаў» (1973) і «Салют над Прыпяццю» (1984) У. Гардзеенкі; «Ветэраны» (1975) Гоманава і «Партызанская Яркая з’ява бел. жывапісу пасляваен. гадоў — цыкл з 16 палоцен «Лічбы на сэрцы» (1974—88) М. Савіцкага, які вылучаецца антыфаш. пафасам, публіцыстыч. завостранасцю, вобразна-стылістыч. навізной.

Адметная рыса жывапісу 1960—80-х г. — гераічны пейзаж, дзе сродкамі пластыч. метафары ствараецца вобраз роднай зямлі, які ўвасабляе сілу і гераізм народа: «Ганча — зямля партызанская» (1969) Цвіркі, «Чырвоныя землі Полаччыны» (1970) і «Песня аб маім атрадзе» (1977) Грамыкі, «Балада аб мужнасці» (1974) Вашчанкі, «Абпаленая зямля» (1973) А. Клімянкова, «Вайной абпаленыя» (1975) Назаранкі, «Гераічны матыў» і «Студзень, 1941 год» (1978) Масленікава, «На хлебным полі» (1984) У. Уродніча і інш. Значнае месца заняў мемарыяльны пейзаж, звязаны з падзеямі Вял. Айчыннай вайны: «Хатынь. Рэквіем» (1967) і «Ліпеньскія навальніцы» (1975) В. Вярсоцкага, «На абпаленай зямлі» (1968) Б. Аракчэева, «Камяні Брэста» (1971) Л. Дударанкі, «Зямля Беларуская» (1973) і «Гераічны Палік» (1982) Масленікава, «Песня аб Мінску» (1975) і «Мінск. Ліпень 1944» (1976) Данцыга, «Курган Славы» (1975)



В. Палійчук. Паранены воін. 1951.

могі» (1982) і «Сыны Радзімы» (1984) В. Свентахоўскай, «Святочны» (1984) У. Мудрогіна, і інш. Партрэты ўдзельнікаў вайны, былых партызан, герояў падполля стварылі Я. Харытоненка, Кухараў, Э. Куфко, Б. Няпомняшчы, Пратасеня, І. Ціханаў, Стасевіч, В. Маркавец і інш. Асаблівай з'явай 80-х г. стаў зварот да франтавой дакументальнасці. Гэты своеасаблівы стылявы падыход, заснаваны на замалёўках з натуры ваен. гадоў і памяці мастакоў-ветэранаў, ярка выяўляе задуму мастака ў творчасці Раманава («Прывал пад Быхавам», 1984, «Мінскі кацёл», 1988), Гуціева («Партызанскі аэрадром», 1988), Бржазоўскага («Партызаны мінскія ідуць», 1984).

З 2-й паловы 1970-х г. да падзей вайны звяртаюцца мастакі пасляваен. пакалення, для творчасці якіх характэрна асэнсаванне вайны з дыстанцыі часу. У іх творах знаходзяць далейшае развіццё выяўленчая метафара, алегорыя; у многіх карцінах адчуваецца разлік на асацыятыўнасць мыслення і ўспрыманне за кошт арыгінальнасці кампазіц. рашэнняў, эмацыянальнага ўздзеяння колеру. Сярод работ: «Памяць» (1975) А. Пашкевіча, «Дзеці вайны» (1978) і «Памяць» (1984) Э. Белагурава, «Медсёстры» (1981) В. Альшэўскага, «9 мая» (1983) і «Лясная школа» (1985) У. Кожуха, «...З табой і для цябе. Подзвігу лётчыка-беларуса А. Гараўца прысвячаецца» (1984) В. Захарынскага, «Трывожнае неба» А. Марачкіна, дыпціх «Вогненная вёска» Г. Таболіча, «А. В. Буравай з вёскі Мілаетава і ўсім маццярам Вялікай Айчыннай» Г. Тураўскай, «Партызанская кузня» В. Маркаўца, «Партызанскія ночы. Прарыў» У. Зінкевіча, «Ліхалецце» М. Таболіч-Мельнікавай, «Успаміны» В. Ціханава, цыкл «Рэха вайны» В. Юрковай (усе 1984), «Вярнуліся» (1985) М. Селешчука, цыкл «Сямейны альбом» (1984—85) У. Тоўсціка, серыя «У партызанскім краі» (1984—86) Ф. Янушкевіча.

Сярод работ у манумент. жывапісе — роспіс «Вялікая Айчынная вайна. 1944» у Бел. дзярж. музеі гісторыі Вял. Айчыннай вайны М. Савіцкага (1971), цыкл «Мінск — горад-герой» Ю. Багушэвіча і Г. Жарына ў холе канферэнц-залы гаркома КПБ (1979—82) у Мінску, «Памяць» В. Лук'янава (1972) у адным з музеяў Полацка, «У імя жыцця на зямлі» ва Ушацкім музеі нар. славы В. Крываблоцкага (1982—85), мазаікі на фасадзе гасцініцы «Турыст» А. Кішчанкі (1973) і інш.

У станковай скульптуры 1960—80-х г. побач з партрэтамі ўдзельнікаў вайны значнае месца сталі займаць шматфігурныя кампазіцыі, часам алегарычнага і сімвалічнага гучання: «Подзвіг Пятра Купрыянава» (1960), партрэты Герояў Сав. Саюза М. А. Кедышкі (1964—67), М. П. Шмырова (1969) Я. Наленкі (1975), І. Казінца (1984) Вакара, «Да апошняга дыхання» (1961), «Падпольшчыца Соф'я Панкова» (1968) і партрэт Героя Сав. Саюза У. З. Марука (1984) Курачкіна, «У паходзе» (1962), «Партызанскія сцежкі» (1968) і «Партызанскі стан» (1984) Заспіпкага, «Апошні бой» (1964), «Абаронцы Брэсцкай крэпасці» (1965), «Піянер-падпольшчык В. Шчарбацэвіч» (1971) і «Рэйкавая вайна» (1975) Селіханава, партрэт Р. Шаршнёвай (1964) і «Танкавы экіпаж лейтэнанта П. М. Рака» (1984) С. Адашкевіча, «Разведчыца» (1964), «У тыле ворага» (1975), «Подзвіг народа» (1981) і партрэт двойчы Героя Сав. Саюза К. К. Ракасоўскага (1984) І. Глебава, партрэт Дз. Ц. Гуляева (1967) і «1941 год. Супраціўленне» (1975) Бембеля; партрэт двойчы Героя Сав. Саюза І. І. Гусакоўскага (1965) М. Шарэнкі, «Маці і сын» (1964), трыпціх «Партызаны» (1967) і «Партызанская сям'я» (1970) Гумілеўскага, «Партызанская зямля» (1965) і «Партызан сейбіт» (1967) П. Цомпеля; «Барозны вайны» (1972) і «Загінуўшых чакаюць вечна» (1979) М. Кандрацьева; «Партызанская сям'я» (1973) і «Дзеці вайны» (1984) В. Палійчука; партрэт Зіны Партновай (1972) І. Міско; «Вясна Перамогі» (1975) і «Бессмяротнасць. Герою Савецкага Саюза Ю. Смірнову прысвячаецца» (1984) А. Анікейчыка, «Юрый Смірноў» і «А маці ўсё чакаюць» (1975) Белавусава, «Партызан» (1975) і «Пераправа» (1978) М. Якавенкі, «Перамога» (1975) і партрэт Героя Сав. Саюза М. М. Зялёнкіна (1984) І. Мурамцава, «Развітанне» (1974) і «Маці ней за смерць» (1975) І. Краўчанкі, «Васіль Цёркін ...» В. Гроса (1975), «Памяць» У. Папсуева (1983), кампазіцыі «Герой Савецкага Саюза Дз. М. Карбышаў» В. Мурашова і «Парад партызан у Мінску ў 1944» М. Рыжанкова (1984) і інш. Асэнсаванне гераіч. подзвігу народа з пазіцыі пасляваен. пакалення адлюстравалася ў вобразным строі твораў «Падпольшчыкі» Л. Давідзенкі (1975), «Уставай, краіна вялізная ....» (1975) і «Хвіліна маўчання» (1985) Э. Астаф'ева, «Няскораная» А. Салятыцкага (1978), «Маё дзяцінства (Дзецям вайны)» В. Хмызнікава (1979), «Апошняе жніво (памяці жыхароў в. Алексічы, якія загінулі ў жніўні 1943 г.)» (1982), «Дарогамі вайны» і «Чаканне» (1984), «Непераможныя» (1985) У. Церабуна, «Паведамленне Саўінфармбюро» (1983) і «Цішыня» (1984) У. Слабодчыкава, «Героям Мінскага падполля» Я. Пуставога (1983), «Разведчыкі» Л. Зільбера, «Сям'я. Памяці бацькі» А. Мятліцкага, «Партызаны, партызаны, беларускія сыны...» А. Бачкарова, «У бой» Гаравой, «Памяці жыхароў спаленай вёскі Лідавец» С. Гарбуновай, «Хлеб партызанам» А. Шатэрнік, «Без весткі прапаўшым прысвячаецца» А. Фінскага (усе 1984).

З пачатку 1960-х г. у гарадах і вёсках Беларусі сталі актыўна будаваць *курганы Славы*, абеліскі, стэлы, мемар. знакі, скульпт.-архіт. мемарыялы, устанаўліваць мемар. дошкі, якія ўвекавечваюць подзвіг сав. народа ў Вял. Айч. вайне і памяць аб мірных жыхарах — ахвярах ням.-фаш. акупацыйнага рэжыму. Абагульнены вобраз салдата-вызваліцеля Радзімы створаны ў шматлікіх скульптурных помніках на брацкіх магілах сав. воінаў і партызан. У манументальнай скульптуры 1-й паловы 1960-х г. галоўнае месца займалі помнікі героям — удзельнікам партыз. руху на Беларусі: Герою Сав. Саюза Ц. П. Бумажкову ў г. п. Акцябрскі Гомельскай вобл. (Заспіцкі), братам І. і М. Цубам каля в. Вялікі Лес Салігорскага р-на (Селіханаў, абодва 1961), Л. М. Даватару каля в. Хоціна Бешанковіцкага р-на (Рыжанкоў, 1965), В. З. Харужай у Мазыры (1962) і Пружанах (1963, Азгур). З 2-й паловы 1960-х г. у манумент. мастацтве назіраецца імкненне да сінтэзу скульптуры і архітэктуры ў рашэнні ідэйна-мастацкіх задач і стварэнне на яго аснове абагульненых вобразаў сімвалічнага гучання. Многім творам характэрна буйнамаштабная форма, манументалізацыя вобразнага ладу. Найбольш выразна гэта праявілася ў мастацкім рашэнні *Кургана Славы Савецкай Арміі — вызваліцельніцы Беларусі*, мемар. комплексаў *«Кацюша»* ў Оршы і вызваліцелям Беларусі ў Пінску (скульпт. А. Шмакаў, арх. М. Зарыцкі, 1967), *Зыслаў, Мемарыяльнага комплексу савецка-польскай баявой садружнасці*, помніках падпольшчыкам Асінторфа каля р. п. Асінторф Аршанскага р-на (Мурамцаў, арх. В. Занковіч, Л. Левін, 1966), «Тры пакаленні» ў в. Чэрвень (Анікейчык і Іванцьеў), землякам і В. І. Соламавай у в. Лата Гродзенскага р-на (В. Даненкаў; абодва 1967), у гонар обальскіх падпольшчыкаў у г. п. Обаль Шумілінскага р-на (Я. Печкін), М. В. Гойшыку ў в. Міхнавічы Івацэвіцкага р-на (Рыжанкоў, арх. В. Занковіч, Л. Левін; абодва 1968) і інш. Былі ўстаноўлены помнікі Ф. А. Смалячкову каля в. Вароніна Быхаўскага р-на (Печкін, 1966), М. П. Шмырову ў Віцебску (1969, Азгур). Памяць аб ахвярах фашызму ўвекавечана ў сусветна вядомым архітэктурна-скульптурным ансамблі *Хатынь*, помніках у Докшыцах (1966, Печкін) і Барысаве (1968, Рыжанкоў) і інш. Закладзеныя ў канцы 1960-х г. канцэпцыі мемар. збудаванняў атрымалі далейшае развіццё ў манумент. мастацтве 1970—80-х г. У лепшых работах выявілася ўменне па-новаму асэнсаваць традыц. формы, ускладненне мастацкай вобразнасці, шырокі зварот да метафары, шмат-

планавасць мастацкіх вобразаў, высокая грамадзянскасць. Шэраг помнікаў набылі значэнне сімвалаў, якія ўслаўляюць подзвіг народа-пераможца. Сярод работ: мемар. комплексы *Брэсцкая крэпасць-герой, Рыленкі, «Прарыў»* і *Мемарыяльны комплекс у гонар Савецкіх воінаў-вызваліцеляў, партызан і падпольшчыкаў* Віцебшчыны. Манумент у гонар савецкай маці-патрыёткі ў Жодзіне, Здзітаўская абарона, «Жывым і загінуўшым» у в. Навасёлкі Петрыкаўскага р-на (Якавенка, усе 1975), «Віцебскія вароты» (1977), *«Барцам за Савецкую ўладу»* ў Магілёве, *Мемарыял воінскай славы* на Лудчыцкай вышыні ў Быхаўскім р-не, архітэктурна-скульптурны манумент *«Мінск — горад-герой»*, сав. воінам і бел партызанам у в. Зэльва (А. Шатэрнік, 1985), у гонар воінаў 1-га Бел. фронту і партызан у в. Сычкава Бабруйскага р-на (1986, Цомпель і М. Бакуменка); помнікі: на вышыні імя Л. П. Ціхмянава ў Лiозненскім р-не (1973, скульптар А. Тарасян, арх. З. Возерава), у гонар гомельскіх апалчэнцаў у Гомелі (Г. Гарбанёў), сав. воінам і партызанам у г. п. Астравец Гродзенскай вобл. (Печкін, абодва 1975), землякам у в. Брадзяцін Маларыцкага р-на (У. Булыга, арх. Ю. Казакоў) і вызваліцелям у Оршы (арх. В. Ягадніцкі, абодва 1978), на брацкай магіле сав. воінаў і партызан у г. Дуброўна (1979, Рыжанкоў, арх. А. Трафімчук), вызваліцелям Полацка (Мурамцаў, арх. В. Аладаў), воінам-кавалерыстам у в. Горня Хоцімскага р-на (Г. Гаравая, арх. Ю. Мамлін, абодва 1981), землякам у в. Гліняты Гродзенскага р-на (1982, Салятыцкі) і інш. Пры стварэнні манументаў і помнікаў выдатным дзеячам значная ўвага звяртаецца на раскрыццё вобраза героя, яго ўнутранага свету, найбольш адметных рыс характару: помнікі М. П. Арцюху ў г. п. Карэлічы (1972, Мурамцаў), В. З. Харужай у Пінску (1973, скульптар Б. Івонцьеў, арх. М. Ткачук), І. К. Кабушкіну ў пас. Мірны Баранавіцкага р-на (1974, І. Міско, арх. Левін), на магіле М. М. Чарнака і партызан у в. Старое Сяло Жабінкаўскага р-на (Г. Пясецкі), Дз. М. Карбышаву ў Гродне (Салятыцкі, абодва 1975), М. Ф. Гастэлу і яго экіпажу каля г. п. Радашковічы Маладзечанскага р-на (1976, Анікейчык, арх. Градаў, Левін), Герою Сав. Саюза і Герою Сацыялістычнай Працы К. П. Арлоўскаму ў в. Мышкавічы Кіраўскага р-на (1977, Рыжанкоў), У. М. Азіну ў Полацку (1979, Вакар, арх. Казакоў), І. Ю. Філідовічу ў г. п. Дзятлава (1980, Салятыцкі), надмагілле П. М. Машэраву ў Мінску (1983, Анікейчык, арх. Градаў, Левін). На ўшанаванне памяці ахвяр фашызму створаны архітэктурна-скульптурныя комплексы *Урочышча Гай, Дальва, «Праклён фашызму»*, помнікі ў г. п. Бягомль Докшыцкага р-на (1975, Івонцьеў), каля Верхнядзвінска (1977, І. Краўчанка, арх. Ткачук), в. Боркі Маларыцкага р-на (1977, Астаф'еў) і інш. Зроблены мемар. знакі на месцы пакарання смерцю членаў Мінскага камуністычнага падполля (1979), на месцы гібелі першага рэдактара падп. газеты «Звязда» Героя Сав. Саюза У. С. Амельянюка (1980, аўтар абодвух Анікейчык, арх. Занковіч, Левін), на месцы пакарання смерцю падпольшчыц М. П. і А. А. Чыжэўскіх і Н. П. Майсеевай (1981, Занковіч), у гонар рабочых друкарні ЦК КПБ (арх. А. і М. Ткачукі), у гонар Мінскага падполля (арх. А. Лабачэўскі, абодва 1984; усе ў Мінску) і інш.

У г р а ф і ц ы 1960—80-х г. вялікае месца адведзена тэмам партыз. барацьбы бел. народа, гераізму ўдзельнікаў камуніст. падполля, абаронцаў Брэсцкай крэпасці. Для найбольш рознабаковага адлюстравання падзей вайны і больш поўнага ўвасаблення аўтарскай задумы мастакі звярталіся да разнастайных графічных тэхнік і іх спалучэнняў, ствараючы серыі работ. У кампазіцыйным рашэнні лістоў выкарыстоўваецца прынцып умоўнага мантажу рознačасовых падзей, сумяшчэнне розных маштабаў, пунктаў погляду і ракурсаў у паказе прадметнага свету. Сярод работ серыя Л. Асецкага «Падполле Мінска» (1967), цыкл Г. Паплаўскага «Памяць» (1968), серыя А. Кашкурэвіча «Партызаны» (1969), якія вылучаюцца напружаным псіхалагізмам у адлюстраванні цяжару вайны, надрыву чалавечых сіл. На гэтым шляху павышанага эмацыянальнага напружання і экспрэсіі тэма вайны ў творчасці Кашкурэвіча перарастае ў гнеўны пратэст супраць ваенных бедстваў, насілля і бязлітаснасці, найбольш ярка выяўлены ў цыкле ілюстрацый да аповесці А. Адамовіча «Карнікі» (1982). Усенародная барацьба супраць гітлераўцаў знайшла адлюстраванне ў серыях «Вайна і людзі» (1984) Л. Шакінкі, «Па партызанскіх сцежках» (1966), «Па слядах партызанскай славы» (1967) і «Партызаны 1-й Беларускай брыгады» (1977—78) І. Сталярова, «Вайна» Г. Віткоўскага (1967), «Падполле Мінска» (1968), «Вызваленне» (1975—78), «Балада аб Лаўскім баі» (1979) і «Памяць» (1984) Асецкага, «Беларусь — край партызанскі» Гуціева (1969), «Партызаны» (1969—70), «Блакада» (1978) Кашкурэвіча, «Народ змагаецца» (1968) Р. Маліноўскага, «Народ і партызаны» (1972) Раманава, «Блакада. 1943 год» (1974) Шаранговіча, «Зыслаў — вострах партызанскі» (1976) М. Рыжанкова, «Героі 19-га асабовага авіяатрада БШПР» (1983) Рана, «Імгненне памяці» Р. Сітніцы, лістах «Вайна народная» (1967) і «Суровы час» (1970) А. Паслядовіч, «Прыём К. С. Заслонава ў партыю. Жнівень 1942 г.» (1971), «Бой з танкамі» (1975), «Партызанская застава» (1978), «Снеданне ў Клічаўскіх лясах» (1979) Раманава, «Партызанскія будні» (1975) Гуціева, «Крокі ў неўміручасць. Подзвіг Трыфана Лук'яновіча» М. Купавы, «Гаспадыня спаленай сядзібы» Я. Куліка і «Народныя мсціўцы Вялікай Айчыннай» (1984) Віткоўскага і інш. Подзвіг абаронцаў Брэсцкай крэпасці займае адно з галоўных месцаў творчасці Дурчына, які стварыў серыю партрэтаў удзельнікаў абароны «Жыццё за Радзіму» (1960—84), серыя «Брэсцкая крэпасць» (1957) і «Салдаты Брэста» (1978—81), лісты «Брэсцкая крэпасць-герой» (1967), «Зорка бессмяротнасці» і «Свяшчэнныя камяні» (1974). Гэты подзвіг знайшоў адлюстраванне ў серыях работ С. Геруса, Я. Пакаташкіна, В. Ткачука і інш. Трагічнаму лёсу сав. народа прысвечаны серыі «Хатынь» (1971) Ю. Зайцава, «Фашысцкая акупацыя» (1965—70) Рана, «Памяці вогненных вёсак» (1979—85) Шаранговіча. Выяўленню сацыяльнай сутнасці войн як злачынства супраць чалавецтва, раскрыццю іх антыгуманізму прысвечана серыя Паплаўскага «Час доўгіх нажоў» (1982—85). Тэма Вялікай Айч. вайны знайшла адлюстраванне ў плакатах П. Калініна, У. Крукоўскага, І. Радунскага, У. Жука, Л. Замаха, Т. Ігнаценкі, Л. Кальмаевай, В. Карэцкага, І. Крэйдзіка, М. Стомы, І. Уладычыка, В. Філімонава, Р. Маліноўскага, Я. Бусла, В. Уласюка, А. Чуркіна, В. Смаляка і інш.

*П. А. Карнач, Э. М. Пугачова.*

**ВЯ́ДА,** вёска на тэр. Івацэвіцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 4 км на ПнЗ ад в. Бабровічы Выганашчанскага сельсавета, на беразе воз. Бабровіцкае. Вядома з 1433. Перад вайной у ёй жылі 217 чал. 15.9. 1942, у час карнай аперацыі *«Балотная ліхаманка»*, фашысты загубілі 217 жыхароў, вёску (87 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1965 у памяць аб загінуўшых жыхарах устаноўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ВЯЗАВЕЦ,** вёска на тэр. Шаркоўшчынскага р-на (б. хутар), знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1,2 км на ПнУ ад в. Трабаўшчына Ёдскага сельсавета. У ліст. 1942, у час карнай аперацыі *«Нюрнберг»*, фашысты загубілі 44 жыхароў, вёску (7 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася.

**ВЯ́ЗЕНЬ,** вёска на тэр. Клічаўскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на З ад в. Усакіна Патоцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 96 чал. У ліп. 1942, у час карнай аперацыі *«Арол»*, фашысты загубілі

80 жыхароў, вёску (19 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1985 на месцы вёскі пастаўлены мемар. знак. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ВЯЛІ́КАЯ БЕРАСТАВІ́ЦА,** гар. пасёлак, цэнтр Бераставіцкага р-на, на р. Бераставічанка. За 63 км на Пд ад Гродна, 8 км ад чыг. ст. Бераставіца на лініі Масты—Бераставіца, на аўтадарозе Гродна—Пагранічны—Ваўкавыск. У 1939—47 вёска ў Крынкаўскім р-не. У чэрв. 1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія забілі ў В. Б. і раёне 634 чал. Дзейнічалі Крынкаўскі падп. РК ЛКСМБ (5.4—1.8. 1944), *партызанская брыгада імя Кастуся Каліноўскага* і *партызанскі атрад 550-ы.* Вызвалена 17.7.1944 воінамі 269-й Рагачоўскай Чырванасцяжнай стралк. дывізіі (ген.-маёр А. Ф. Кубасаў) 3-й арміі 2-га Бел. фронту ў ходзе *Беластоцкай аперацыі 1944.* У В. Б. брацкія магілы сав. воінаў, сав. воінаў і партызан, на якіх пастаўлены помнікі; помнік С. В. *Прытыцкаму.* *В. В. Гетаў.*

**ВЯЛІ́ЧКА** Генадзь Іосіфавіч (н. 15.2. 1922, в. Лутна Шклоўскага р-на), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1950. Скончыў школу авіямеханікаў (1941), злектрамеханічны тэхнікум (1963). На фронце з чэрв. 1941. Удзельнік баёў пад Сталінградам, на Доне, вызвалення Украіны, Польшчы, Чэхаславакіі. Снайпер ст. сяржант В. знішчыў 330 гітлераўцаў, падрыхтаваў каля 200 снайпераў. Да 1946 у Сав. Арміі, лейтэнант. Жыве і працуе ў г. Енакіева Данецкай вобл.

**ВЯНКЕ́ЛЕВА,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1,5 км на ПдЗ ад в. Слабодка Каханавіцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жылі 64 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»,* фашысты загубілі 48 жыхароў, вёску (14 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1982 на месцы вёскі насыпаны курган, на яго вяршыні пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ВЯРБІ́ЦКІ** Васіль Аляксеевіч (1.3. 1918, в. Ляскова Багучарскага р-на Варонежскай вобл.— 6.4.1943), удзельнік *Віцебскага партыйна-камсамольскага падполля.* Чл. КПСС з 1939. У Чырв. Арміі з 1938. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. Напярэдадні Айч. вайны служыў у Баранавічах. У жн. 1941 стварыў у Віцебску разведвальна-дыверсійную групу. У крас. 1943 кіраўнік і 30 членаў групы схоплены фашыстамі і пасля катаванняў 17 чал. расстраляны, астатнія кінуты ў лагер смерці СД.

**ВЯРШЫ́НІН** Канстанцін Андрэевіч (3.6. 1900, в. Боркіна Санчурскага р-на Кіраўскай вобл.— 30.12.1973), Герой Сав. Саюза (1944), галоўны маршал авіяцыі (1959). Чл. КПСС з 1919. У Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў курсы «Выстрал» (1923), Ваенна-паветр. акадэмію імя Жукоўскага (1932). З вер. 1941 камандуючы ВПС Паўд., Закаўказскага, Паўн.-Каўказскага франтоў, камандуючы 4-й паветр. арміяй. Кіраваў дзеяннямі авіяцыі ў баях за вызваленне Каўказа, Кубані, Крыма, Беларусі, Польшчы, ва Усх.-Прускай аперацыі. У 1946—49, 1957—69 Галоўнакамандуючы ВПС і нам. міністра абароны СССР. У 1952—56 канд. у чл. ЦК, у 1961—71 чл. ЦК КПСС. Дэп. ВС СССР у 1946—50, 1954—70. Аўтар кн. «Чацвёртая паветраная» (1975).

**ВЯТО́ШКІН** Віктар Дзмітрыевіч [н. 10. 5.1925, в. Новая Мільча (цяпер у раёне Гомеля)], поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПСС з 1962. На фронце з 1943. Удзельнік вызвалення Беларусі, Польшчы, баёў у Германіі. Камандзір мінамётнага разліку сяржант В. вызначыўся пры фарсіраванні Віслы, Одэра і ў баі на подступах да Эльбы. 5.5.1945 з мінамётным разлікам знішчыў 5 агнявых кропак ворага, што садзейнічала выхаду палка на Эльбу. Жыве і працуе ў Гомелі.

**ВЯТРО́Ў** Іван Дзмітрыевіч (26.9.1905, в. Саматэвічы Касцюковіцкага р-на — 10.2.1986), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Палескай вобл., дзярж. дзеяч БССР. Заслужаны юрыст БССР (1972). Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Чл. КПСС з 1927. Скончыў Ваенна-юрыдычную акадэмію Сав. Арміі (1952). З 1925 на камсам., парт. і сав. рабоце на Беларусі. У 1940—41 нам. заг. аддзела кадраў ЦК КП(б)Б, пракурор БССР. З ліп. 1942 прадстаўнік ЦК КП(б)Б і БШПР на Зах. фронце. З жн. 1943 упаўнаважаны ЦК КП(б)Б, ЦШПР, 1-ы сакратар *Палескага падпольнага абкома КП(б)Б,* адначасова ў вер. 1943 — сак. 1944 камандзір *Палескага партызанскага злучэння.* У 1944—49 пракурор БССР, у 1953—60 міністр юстыцыі БССР. Чл. ЦК КП(б)Б у 1940—49, канд. у чл. ЦК КПБ у 1954—60. Дэп. ВС СССР у 1946—50, ВС БССР у 1938—63. Ганаровы грамадзянін г. Мазыр (1974). Аўтар кн. «Браты па зброі» (1965).



Г. І. Вялічка. К. А. Вяршынін. В. Дз. Вятошкін. І. Дз. Вятроў. А. К. Габрусёў. М. А. Гаген.

**ВЯТЧЫНСКІ БОЙ 1942,** бой партыз. атрадаў «Чырвоны Кастрычнік» (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 123-я Акцябрская імя 25-годдзя БССР)* і А. І. Далідовіча (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 25-я імя П. К. Панамарэнкі*) супраць ням.-фаш. акупантаў у в. Вятчын Жыткавіцкага р-на ў студз. 1942. Гітлераўцы ператварылі в. Вятчын у апорны пункт, стварылі там буйны гарнізон. 14 студз. партызаны атакавалі вёску з 2 бакоў. Пасля непрацяглага бою фашысты пабеглі, але трапілі пад кулямётны агонь партыз. засад. У час бою знішчана каля 50 гітлераўцаў, варожы гарнізон спыніў існаванне. У партызан страт не было.



**ГАБРУСЁЎ** Аляксей Канстанцінавіч (н. 1.1. 1922, в. Гарошкава Дубровенскага р-на), Герой Сав. Саюза (1944).

Чл. КПСС з 1944. З ліст. 1941 на Зах., Варонежскім, 1-м Укр. франтах. Удзельнік абароны Масквы, вызвалення Польшчы, Чэхаславакіі. Старшы сяржант Г. вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра на Пн ад Кіева. У вер. 1943 з групай разведчыкаў пераправіўся цераз раку каля г. Вышгарад, разведаў абарончыя ўмацаванні ворага. Калі загінуў камандзір, узначаліў узвод, які адбіў 10 контратак праціўніка і ўтрымаў плацдарм да падыходу падмацавання. Да 1964 у Сав. Арміі, падпалкоўнік.

**ГА́ГЕН** Мікалай Аляксандравіч (24.3. 1895, пас. Лахцінскі Ленінградскай вобл.— 20.5.1969), ген.-лейт. (1943). Чл. КПСС з 1939. У Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік 1-й сусв. і грамадз. войнаў. Скончыў Вышэйшую ваеннапедагагічную школу (1929). У ліп. 1941 153-я стралк. дывізія пад яго камандаваннем утрымлівала абарону на падыходзе да Віцебска (гл. *Віцебска абарона 1941*). З 22 ліп. да вер. 1941 знішчыла каля 200 танкаў, 56 гармат, шмат інш. тэхнікі і жывой сілы праціўніка. За стойкасць пры абароне Беларусі і ў Смаленскай бітве дывізія 18.9.1941 адной з першых удастоена наймення «гвардзейскай». Са снеж. 1941 камандаваў Волхаўскай аператыўнай групай, пазней — корпусам, арміямі. Пасля вайны на камандных пасадах у Сав. Арміі.

**ГАЙДУЧО́НАК** Любоў Георгіеўна (1921, в. Верлеж Пухавіцкага р-на — 22.5. 1943), адзін з арганізатараў камсам.-маладзёжнага падполля і партыз. руху ў Мінскім, Пухавіцкім і Чэрвеньскім р-нах. Вучылася ў Мінскім педінстытуце. З 1940 настаўніца. З 1.9.1942 чл. *Мінскага падпольнага міжрайкома ЛКСМБ* і Мінскага падп. райкома камсамола. З 28.7.1942 упаўнаважаная ЦК ЛКСМБ па Мінскім р-не. Пад яе кіраўніцтвам створана больш за 70 падп. камсам.-маладзёжных арг-цый. Наведвала яўкі ў Мінску, інструктавала падпольшчыкаў, давала заданні, правярала іх выкананне. У канцы 1942 наладзіла сувязь з уцалелымі пасля вераснёўска-кастрычніцкіх арыштаў камсам.-маладзёжнымі падп. арг-цыямі і групамі Мінска. 22.5.1943, вяртаючыся з групай партызан з задання, у в. Плябанцы Мінскага р-на трапіла ў засаду. Загадала таварышам адыходзіць, сама, параненая, працягвала бой да апошняга патрона. Пахавана ў в. Плябанцы. У г. Мар'іна Горка ёй пастаўлены помнік (1972). Яе імем названы сквер, імя Г. прысвоена сярэднім школам у Мар'інай Горцы, Мінску і ў в. Гарэлец Пухавіцкага р-на.



Л. Г. Гайдучонак. А. С. Гайко.



П. Я. Галавачоў. А. І. Галдовіч.



П. А. Галецкі. К. М. Галіцкі.

**ГАЙКО́** Андрэй Самуілавіч (1920, с. Карасай Акбулакскага р-на Арэнбургскай вобл.— 26.12.1943), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1943. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну на фронце з 1941. Камандзір стралк. ўзвода лейтэнант Г. вызначыўся 26.12.1943 у баях каля в. Пялёнкі Суражскага р-на (цяпер в. Задзвінне Віцебскага р-на). З групай байцоў (7 чал.) за 4 гадзіны адбіў 10 контратак праціўніка. Калі астаўся адзін і скончыліся боепрыпасы, падпусціў гітлераўцаў бліжэй і 2 процітанк. гранатамі падарваў іх і загінуў сам. Пахаваны ў в. Задзвінне ў брацкай магіле сав. воінаў і партызан. Яго імем названы вуліца ў р. п. Акбулак, школа ў с. Карасай, на будынку якой устаноўлена мемар. дошка.

**«ГА́ЙНОВСКИЙ РАБО́ЧИЙ»,** газета, орган Гайнаўскага падп. РК КП(б)Б. Вядомы нумар ад 14.6.1944 на рус. мове.

**ГАЙСА́РАЎ** Ахмет Зіганшынавіч (20.11.1906, с. В. Кайбіцы Апастаўскага р-на Татарскай АССР —23.7. 1981), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1927. Скончыў Казанскі камуніст. ун-т (1932). Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У чэрв. 1941 удзельнік абароны Беластока. З сак. 1943 у партызанах: радавы, камандзір узвода, з жн. 1943 камісар атрада, у кастр. 1943— ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады імя Г. К. Жукава,* адначасова з снеж. 1943 2-і сакратар Стаўбцоўскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—77 на парт., адм.-гасп. і сав. рабоце.

**ГАЛАВАЧО́Ў** Павел Якаўлевіч (15.12. 1917, в. Кашалёў Буда-Кашалёўскага р-на —2.7.1972), двойчы Герой Сав. Саюза (1943, 1945), ген.-маёр авіяцыі (1957). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Адэскую ваен. авіяцыйную школу (1940), акадэміі Ваенна-паветр. (1951), Генштаба (1959). З чэрв. 1941 на Паўд., Паўд.-Зах., Сталінградскім, 3-м і 1-м Бел. франтах: камандзір звяна эскадрыллі знішчальнага авіяпалка. Удзельнік абароны Адэсы, Сталінградскай бітвы, вызвалення Данбаса, Крыма, Беларусі, Усх.-Прускай і Берлінскай аперацый. Зрабіў 457 баявых вылетаў, правёў 125 паветр. баёў, збіў 26 самалётаў праціўніка, 1 тараніў. Пасля вайны на адказных пасадах у Сав. Арміі. Яго імя прысвоена саўгасу ў Буда-Кашалёўскім р-не, ПТВ будаўнікоў у Гомелі, дзе створаны музей Г.; яго імем названы вуліцы ў г. Буда-Кашалёва, Гомелі, дзе пастаўлены яго бюсты. У Гомелі на будынках дрэваапрацоўчага камбіната, дзе ён працаваў, ПТВ будаўнікоў і аэраклуба, дзе вучыўся, устаноўлены мемар. дошкі.

**ГАЛДО́ВІЧ** Аляксандр Іванавіч (3.3. 1900, г. Барысаў —14.11.1975), ген.-лейт. інж. войск (1945). Чл. КПСС з 1927. У Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз. вайны на Зах. фронце, баёў каля воз. Хасан у 1938. У Айч. вайну нач. інж. войск арміі на Паўд., Паўн.-Каўказскім, 2-м і 3-м Укр. франтах. Пасля вайны да 1961 нач. інж. войск ваен. акруг, нам. нач. інж. войск Міністэрства абароны СССР.

**ГАЛЕ́ЦКІ** Пётр Антонавіч (май 1919, в. Майдан Талачынскага р-на —21.10. 1942), Герой Сав. Саюза (1965). Чл. ВЛКСМ. На фронце з чэрв. 1941. З 1942 падрыўнік партыз. атрада «Перамога» (гл. *Партызанскі атрад 13-ы*), які дзейнічаў у Віцебскай і Смаленскай абл. 21.10.1942 недалёка ад чыг. ст. Крынкі Лёзненскага р-на з узрыўчаткай кінуўся пад варожы эшалон з гаручым, падарваў яго і загінуў сам. На месцы подзвігу пастаўлены абеліск. Яго імя прысвоена школе ў в. Славені Талачынскага р-на.



З. З. Гало. У. С. Галушкевіч.



Б. Л. Галушкін. І. П. Гаманкоў.



І. П. Ганенка. Я. І. Ганчароў.

**ГАЛІ́ЦКІ** Кузьма Мікітавіч (24.10.1897, Таганрог—14.3.1973), Герой Сав. Саюза (1945), ген. арміі (1955). Чл. КПСС з 1918. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1927). У арміі з 1917, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. і сав.-фінл. 1939—40 войнаў. У Айч. вайну з чэрв. 1941 на Зах., Паўн.-Зах., Калінінскім, 1-м Прыбалт., 3-м Бел. франтах: камандзір дывізіі, корпуса, нам. камандуючага 1-й ударнай, камандуючы 3-й ударнай, 11-й гвардз. арміямі. Удзельнік абароны Ліды, Гомеля, бітвы пад Масквой, Велікалуцкай, Невельскай аперацый. 11-я гвардз. армія пад яго камандаваннем вызначылася ў *Гарадоцкай аперацыі 1943, Беларускай аперацыі 1944*, фарсіравала Бобр, Бярэзіну, Нёман, удзельнічала ў вызваленні Оршы, Барысава, Мінска, Маладзечна. Удзельнік Усх.-Прускай аперацыі, у т. л. штурму Кёнігсберга, крэпасці Пілаў (Балтыйск). Да 1962 камандуючы ваен. акругамі. Дэп. ВС СССР у 1946—62. Аўтар кніг «У баях за Усходнюю Прусію: Запіскі камандуючага 11-й гвардзейскай арміяй» (1970), «Гады суровых выпрабаванняў, 1941—1944: Запіскі камандарма» (1973). Ганаровы грамадзянін г. Ліда. Яго імем названы вуліцы ў гарадах Гарадок, Ліда, Маладзечна.

**ГАЛО́** Захар Захаравіч (падп. псеўд. З о р ы к, М а к с і м; 18.3.1923, Мінск—23.2.1944), удзельнік *Мінскага партыйнага падполля.* Чл. ВЛКСМ. З восені 1941 па заданні падп. партыйнага к-та працаваў сакратаром бюро прапускаў Мінскай гар. управы. Забяспечваў падпольшчыкаў бланкамі пашпартоў, перадаваў звесткі аб падрыхтоўцы гітлераўцамі аблаў, карных экспедыцый. Быў звязаны з падп. групамі на чыг. вузле, Лагойскім падп. РК КП(б)Б, спецгрупай ЦШПР. Узначальваў дыверсійную групу, якая ў ліп.— вер. 1943 замініравала 6 эшалонаў, што ішлі на фронт. Перапраўляў зброю і боепрыпасы ў партыз. атрад імя Суворава брыгады «Народныя мсціўцы». Актыўна ўдзельнічаў у выратаванні сав. ваеннапалонных і адпраўцы іх у партыз. атрады. 25.10.1943 арыштаваны. Загінуў у фаш. засценках. Яго імем названа вуліца ў Мінску.

**ГАЛО́ЎНАЕ КАМА́НДАВАННЕ ВОЙСК ЗАХО́ДНЯГА НАПРА́МКУ,** орган аператыўнага кіраўніцтва ўзбр. сіламі на Зах. стратэгічным напрамку ў 1941—42. Створана паводле пастановы Дзярж. к-та абароны ад 10.7.1941 з мэтай паляпшэння кіравання войскамі, арганізацыі ўзаемадзеяння франтоў, ВПС і ВМС. Сярод задач былі таксама пытанні аб кіраўніцтве партыз. рухам, аб арганізацыі распаўсюджвання лістовак у варожым тыле з заклікамі да насельніцтва ствараць партыз. атрады і граміць тылы ням.-фаш. арміі. Спачатку ў падпарадкаванне Галоўнага камандавання ўвайшлі Зах. фронт і Пінская ваен. флатылія, у далейшым — Зах., Рэзервовы і Цэнтр. франты. Скасавана 10.9.1941. Зноў створана 1.2.1942 для кіравання дзеяннямі Зах. і Калінінскага франтоў у перыяд агульнага наступлення пад Масквой. Займалася таксама абагульненнем вопыту з мэтай удасканалення метадаў падрыхтоўкі і вядзення баявых дзеянняў. Скасавана 5.5.1942. Галоўнакамандуючыя: Маршал Сав. Саюза С. К. Цімашэнка (да 10.9.1941), ген. арміі Г. К. Жукаў (да 5.5.1942). Член ваен. савета М. А. Булганін. Начальнікі штаба: ген.-лейт. Г. К. Маландзін (да 20.7.1941), Маршал Сав. Саюза Б. М. Шапашнікаў (21—29.7.1941), ген.-лейт. В. Д. Сакалоўскі (з 30.7.1941). *Р. А. Важжоў.*

**ГАЛУШКЕ́ВІЧ** Уладзімір Сяргеевіч (2.1.1898, г. Мсціслаў—2.2.1964), ген.-лейт. (1962). Чл. КПСС з 1939. Удзельнік грамадз. вайны. З 1934 у штабе арміі і Генштабе РСЧА. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1939). Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну на Цэнтр., Зах. франтах: нач. аператыўнага аддзела, нам. нач. штаба фронту. Пасля вайны ў Ваенна-навуковым упраўленні Генштаба.

**ГАЛУ́ШКІН** Барыс Лаўрэнцьевіч (12.8. 1919, г. Шахты Растоўскай вобл.— 15.6.1944), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай і Мінскай абл. Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Усесаюзны ін-т фізкультуры (1941). На фронце з 1941, удзельнік баёў пад Ленінградам. У 1942 выконваў спецзаданне ў тыле ворага. З мая 1943 камандзір спец. атрада НКДБ «Дапамога» (пазней уваходзіў у *партызанскі атрад «Артур»*. Загінуў у час прарыву варожай блакады ў раёне воз. Палік. Пахаваны ў брацкай магіле ў в. Макаўе Барысаўскага р-на. Яго імем названа вуліца ў Маскве, школа ў в. Іканы Барысаўскага р-на, дзе ў музеі народнай славы ўстаноўлены яго бюст.

**ГАМАНКО́Ў** Іван Пракопавіч (27.2. 1919, в. Яўкіна Шумяцкага р-на Смаленскай вобл.—8.11.1980), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1949. Беларус. Скончыў Маскоўскае ваен. вучылішча пагранвойск (1939). На фронце з чэрв. 1941. З снеж. 1941 да вер. 1943 у партыз. атрадзе на Смаленшчыне, пасля злучэння яго з Чырв. Арміяй зноў на фронце. Удзельнік вызвалення Беларусі. Вызначыўся ў крас. 1945 пры фарсіраванні р. Шпрэ ў Берліне. З салдатамі пераправіўся цераз раку і блакіраваў апорны пункт гітлераўцаў. Рота на чале з капітанам Г. адбіла некалькі контратак праціўніка, знішчыла 12 гармат, 6 кулямётаў, 3 мінамёты, шмат жывой сілы ворага. Цяжка паранены, не пакінуў поля бою. У 1951—69 на прафс. і гасп. рабоце.

**«ГА́МБУРГ»** («Hamburg»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партызан і мясцовага насельніцтва ў трохвугольніку Ліда — Баранавічы — Ваўкавыск (міжрэчча рэк Нёмана і Шчары): тэр. Дзятлаўскага, Жалудоцкага, Казлоўшчынскага, Лідскага, Мастоўскага, Навагрудскага, Слонімскага, Шчучынскага р-наў у снеж. 1942.

Загад на правядзенне аперацыі быў аддадзены рэйхсфюрэрам Гімлерам і накіраваны ў 49 розных інстанцый рэйха і акупацыйнага апарата. Для яе ажыццяўлення была сфарміравана «баявая група Готберга» (2-і паліцэйскі полк, 15-ы, 24-ы, 115-ы, 271-ы паліцэйскія і ахоўныя батальёны, 23-і паліцэйскі батальён, 2 батальёны вермахта, больш за

15 спец. каманд паліцыі бяспекі і СД, падраздзяленняў жандармерыі, спец. і арт. рот і дывізіёнаў). Пачатку аперацыі папярэднічала старанная агентурная, авіяцыйная, вайсковая разведка раёна баявых дзеянняў. Камандны пункт кіраўніка аперацыі Готберга знаходзіўся ў Баранавічах. План аперацыі прадугледжваў наступленнем мабільных сіл з У і Пн прыціснуць партызан і мясцовых жыхароў, якія адыходзілі з імі, да заградальнай лініі каля сутоку рэк Шчары і Нёмана і знішчыць.

Прасоўванне карнікаў да месца аперацыі, дзе ў той час знаходзіліся партыз. атрады № 3649, № 54, Арлянскі і імя Варашылава агульнай колькасцю 800 чал., пачалося 7 снежня. Яшчэ ў ходзе асенніх баёў 1942 партызаны гэтых атрадаў разграмілі фаш. гарнізоны ў г. п. Казлоўшчына, вёсках Руда Яварская, Дзярэчын, Галынка і наносілі ўдары па дарогах Ліда — Ваўкавыск, Ліда — Баранавічы, Ваўкавыск — Баранавічы. У час баявых дзеянняў 12—13 снеж. пачала фарміравацца *партызанская брыгада Ленінская,* якая і прыняла на сябе ўдар асноўных сіл карнікаў. 13 снеж. партызаны адбівалі атакі гітлераўцаў на подступах да в. Галынка і Дзярэчын; в. Вострава некалькі разоў пераходзіла з рук у рукі. У наступныя 3 дні партызаны стрымлівалі ворага на берагах Шчары, асабліва бязлітасныя баі ішлі каля вёсак Вялікая Воля і Крупіцы. У ноч на 17 снеж. партызаны, пазбегнуўшы акружэння, выйшлі ў раней намечаныя раёны.

У канцы снеж. Гімлер дакладваў Гітлеру: «Аперацыя «Гамбург» пад камандаваннем брыгадэнфюрэра СС фон Готберга закончана... Страты праціўніка склалі 5172 чал. забітымі, з іх 1674 забіта ў баях, 1510 расстраляна па падазрэнню ў бандыцкай дзейнасці; 2988 чал. расстраляны як пасобнікі...»

Гэта былі жанчыны, старыя і дзеці з в. Вялікая Воля (загублена 364 чал.), Гарадкі (336 чал.), Трахімавічы (142 чал.) Дзятлаўскага р-на, Баяры (50 чал.), Задвор'е (260 чал.), Шчара (35 чал.) Мастоўскага р-на, Васілевічы (270 чал.), Вербалаты (40 чал.), Ніз (296 чал.), Паўлавічы (276 чал.) Слонімскага р-на і інш. У 2-й пал. снежня, пасля перагрупоўкі сваіх сіл, гітлераўцы праглгвалі аперацыю, даўшы ёй кодавую назву *«Альтона».*
*У. С. Пасэ.*

**ГАНАРО́ВЫЯ НАЙМЕ́ННІ** в а й с к о в ы я. Прысвойваліся загадамі ВГК часцям і злучэнням Чырв. Арміі, якія вызначыліся пры вызваленні акупіраваных тэр. ад ням.-фаш. захопнікаў. Звычайна часці і злучэнні атрымлівалі Г. н. па назвах гарадоў, пры вызваленні якіх яны вызначыліся, або па назвах рэк, на якіх яны захаплівалі плацдармы для фарсіравання іх. Першых Г. н. у Вял. Айч. вайну ўдастоены ў студз. 1943 танк. і механізаваныя карпусы і авіяцыйныя дывізіі, якія вызначыліся ў баях пад Сталінградам.

Пры вызваленні БССР у 1943 і 1944 часці і злучэнні Чырв. Арміі атрымалі наступныя ганаровыя найменні (у дужках дадзены дата прысваення і колькасць фарміраванняў): «Крычаўскія» (30.9. 1943; 3), «Лёзненскія» (10.10.1943; 5), «Дняпроўскія» (17.11.1943; 5 — за фарсіраванне Дняпра ў раёне Рэчыцы), «Рэчыцкія» (18.11.1943; 22), «Гарадоцкія» (24.12.1943; 12); «Гомельскія» (26.12. 1943; 23), «Калінкавіцкія» (15.1.1944; 21), «Мазырскія» (15.1.1944; 18), «Рагачоўскія» (26.2.1944; 13), «Жлобінскія» (2.7.1944; 3), «Віцебскія» (2 і 10.7.1944; 62). «Бабруйскія» (5.7.1944; 20), «Слуцкія» (5.7.1944; 8), «Аршанскія» (6.7.1944; 41). «Магілёўскія» (10.7.1944; 21), «Верхнедняпроўскія» (10.7.1944; 32 — за фарсіраванне Дняпра і вызваленне гарадоў Шклоў, Магілёў і Быхаў), «Барысаўскія» (10.7.1944; 13), «Мінскія» (10 і 23.7, 10.8.1944; 53), «Полацкія» (23.7.1944; 31), «Пінскія» (23.7.1944; 18), «Маладзечанскія» (23.7.1944; 13), «Лунінецкія» (21.7.1944; 7), «Ваўкавыскія» (25.7.1944; 11), «Гродзенскія» (25.7.1944; 17), «Лідскія» (25.7.1944; 4), «Кобрынскія» (25.7. 1944; 12), «Слонімскія» (27.7.1944; 11), «Баранавіцкія» (27.7.1944; 28), «Брэсцкія» (10.8.1944; 47), «Нёманскія» (12.8. 1944; 45 — на захоп плацдармаў на Нёмане, іх утрыманне і фарсіраванне ракі). Аб кожным найменні гл. адпаведныя артыкулы, напр.: *Барысаўскія вайсковыя злучэнні і часці. М. І. Камінскі.*

**ГАНЕ́НКА** Іван Пятровіч (н. 27.2.1903, Кіравагpад), сав. парт. дзеяч, адзін з арганізатараў парт. падполля і партыз. руху на Беларусі. Чл. КПСС з 1924. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў эканамічны ін-т чырв. прафесуры (1938). З 26.3.1941 да 1.9. 1943 сакратар ЦК КП(б)Б, адначасова ў 1941—42 чл. Ваен. савета 13-й арміі, нам. нач. палітупраўлення Зах. і Волхаўскага франтоў, з 1943 нам. нач. БШПР, кіраваў разведработай. Як прадстаўнік ЦК КП(б)Б і БШПР неаднаразова быў у тыле ворага, аказваў дапамогу ў рабоце падп. Мінскага і Магілёўскага абкомаў КП(б)Б, вёў ідэйна-паліт. работу сярод партызан, быў у Клічаўскім ваен.-аператыўным цэнтры, у Барысаўска-Бягомльскай зоне. У 1945—47 заг. аддзела ЦК КП(б)Б. З 1948 1-ы сакратар Полацкага абкома КП(б)Б. З 1950 да 1952 сакратар і чл. Бюро ЦК КП(б)Б. У 1952—61 інспектар ЦК КПСС, 1-ы сакратар Астраханскага абкома КПСС. Дэп. ВС СССР у 1954—62, ВС БССР у 1947—55.

**ГАНЗЕ́НКА** Сямён Рыгоравіч (28.12. 1915, с. Енькі Харольскага р-на Палтаўскай вобл.—17.10.1973), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1939. У пач. Айч. вайны на фронце. У партызанах з мая 1942, з чэрв. камандзір атрада, у снеж. 1943— ліп. 1944— *партызанскай брыгады імя П. К. Панамарэнкі.* З 1945 на сав., адм.-гасп. рабоце.

**ГА́НІ,** вёска на тэр. Лагойскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася ў Гайненскім сельсавеце. Перад вайной у ёй жыў 121 чал. 3.1.1944, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 121 жыхара, вёску (15 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ГА́НЦАВІЧЫ,** горад, цэнтр Ганцавіцкага раёна. За 246 км на ПнУ ад Брэста, чыг. станцыя на лініі Лунінец — Баранавічы, аўтадарогамі звязаны з Лунінцом, Клецкам. У 1940 — 72 гар. пасёлак. 30.6.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія закатавалі ў Г. і раёне 8726 сав. грамадзян. У ліп. 1941 з мясцовых жыхароў былі створаны асобны Ганцавіцкі партыз. атрад (камандзір Чуміло), які ў жн. пацярпеў вял. страты і перастаў існаваць. Да канца 1942 атрады і групы Пінскага партыз. злучэння кантралявалі вял. зону, якая ўключала ч. тэр. Ганцавіцкага р-на. На тэр. раёна дзейнічалі Ганцавіцкія падп. райкомы КП(б)Б (канец 1942— 7.7.1944) і ЛКСМБ (май 1943—7.7. 1944), партыз. брыгады імя Леніна, імя Панамарэнкі, імя Свярдлова, 8-я, полк 208-ы імя Сталіна, асобныя атрады «Баявы» імя Дунаева, імя Шчорса, «Сокалы», 113-ы (гл. адпаведныя артыкулы). Вызвалены 7.7. 1944 воінамі 89-га стралк. корпуса (ген.-маёр А. Я. Яноўскі) 61-й арміі 1-га Бел. фронту і партызанамі брыгады імя Леніна (камандзір В. А. Васільеў) у ходзе *Беларускай аперацыі 1944.* У Г. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі; помнік землякам — работнікам леспрамгаса, якія загінулі ў гады вайны, насыпаны курган Славы. *У. М. Якубоўскі.*

**ГАНЧАРО́Ў** Якаў Ігнатавіч (5.4.1914, в. Казлоўка Мсціслаўскага р-на— 26.3.1982), Герой Сав. Саюза (1946). Чл. КПСС з 1942. У Чырв. Арміі з 1931. Скончыў школу мал. авіяспецыялістаў (1937), курсы ўдасканалення афіцэрскага саставу (1951). Удзельнік баёў на р. Халхін-Гол у 1939. У Айч. вайну з чэрв. 1941 на Зах., Паўд.-Зах., Сталінградскім, Данскім, Цэнтр., Бел. і 1-м Бел. франтах. 24.6.1941 бамбіў варожыя войскі на шашы Гродна — Маладзечна. Дастаўляў зброю і боепрыпасы партызанам злучэння С. А. Каўпака. Удзельнік вызвалення Харкава, Кіева, Гомеля, Бабруйска, Мінска, Брэста, баёў на тэр. Германіі. Начальнік сувязі авіяэскадрыллі ст. лейт. Г. зрабіў 221 баявы вылет на разведку і бамбардзіроўку ваен. аб'ектаў праціўніка, асабіста збіў 1 самалёт, 3— у складзе групы. Да 1954 у Сав. Арміі, маёр.

**ГАПАНО́ВІЧ** Дзмітрый Апанасавіч (26. 10.1896, в. Танежыцы Слуцкага р-на —29.11.1952), ген.-лейт. (1944). Чл. КПСС з 1919. У арміі з 1915, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. З 1937 у Палітупраўленні РСЧА, з 1939 чл. ваен. савета Забайкальскай ваен. акругі. У Айч.

вайну чл. ваен. савета Цэнтр. фронту, Кіеўскай, Уральскай, Маскоўскай ваен. акруг, Маскоўскай зоны абароны. Пасля вайны на камандных пасадах у Сав. Арміі.

**ГАПЕ́ЕЎ** Яфім Данілавіч (н. 8.3.1908, с. Левенка Старадубскага р-на Бранскай вобл.), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1932. Скончыў Рэспубліканскую парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1949). З 1933 на сав. і парт. рабоце. З ліп. 1941 па заданню ЦК КП(б)Б у тыле ворага. З студз. 1943 упаўнаважаны ЦК КП(б)Б і БШПР па Лідскай зоне, у крас. 1943— ліп. 1944 камандзір *Лідскага партызанскага злучэння*, адначасова кіраўнік Лідскага падпольнага міжрайпартцэнтра, сакратар Лідскага падп. гаркома-райкома, чл. Баранавіцкага падп. абкома КП(б)Б. Пасля вайны на парт. рабоце. Ганаровы грамадзянін г. Ліда.

Дз. А. Гапановіч. Я. Д. Гапееў.



**ГАПО́НАЎ** Захар Платонавіч (3.9. 1913, с. Клараўка Скадоўскага р-на Херсонскай вобл.—21.9.1975), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1939. Скончыў ВПШ пры ЦК КПСС (1954). З 1935 у войсках НКУС СССР. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі (1939). У пачатку Айч. вайны ўдзельнік абароны Ваўкавыска, Слоніма. У партызанах з жн. 1941: камісар атрада, з ліст. 1942 *партызанскай брыгады 6-й Магілёўскай*, з ліп. 1943 камандзір *Бялыніцкай ваенна-аператыўнай групы*, у маі — чэрв. 1944— *Магілёўскай ваенна-аператыўнай групы*, адначасова з мая 1944 камандзір *партызанскага палка 113-га*. У 1944—74 на парт. і сав. рабоце.

**ГАПЯНЁНАК** Мікалай Іванавіч (н. 17.4. 1919, в. Бярозна Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1945). Канд. ваен. навук (1960). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Ваен.-паветр. акадэмію (1951). З 1941 на Ленінградскім, Паўн.-Зах., Калінінскім, Волхаўскім, Варонежскім, Сцяпным, 1-м і 2-м Укр. франтах. Намеснік камандзіра эскадрыллі бамбардзіровачнага авіяпалка, гвардыі капітан, зрабіў 198 баявых вылетаў. З 1952 на ваенна-педагагічнай рабоце, дацэнт Ваен.-паветр. акадэміі імя Гагарына, палкоўнік.

**ГАРА́**, вёска на тэр. Полацкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 8 км на ПдУ ад в. Палата. У 1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі жыхароў, вёску спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1965 на месцы вёскі ўстаноўлены абеліск.

**ГАРАВЕ́Ц** Аляксандр Канстанцінавіч (12.3.1915, в. Машканы Сенненскага р-на — 6.7.1943), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1939. У Чырв. Арміі з 1932. Скончыў Віцебскі аэраклуб, Ульянаўскую лётную школу (1935). З чэрв. 1942 на Паўн.-Каўказскім, Варонежскім франтах. Зрабіў 74 баявыя вылеты, удзельнічаў у 11 паветр. баях, знішчыў 11 самалётаў ворага, 40 аўтамашын, 24 павозкі з боепрыпасамі. Нам. камандзіра эскадрыллі знішчальнага авіяпалка, ст. лейтэнант Г. 6.7.1943 у час Курскай бітвы ўступіў у бой з 20 варожымі бамбардзіроўшчыкамі, збіў 9 самалётаў. Г.— адзіны ў свеце лётчык, які ў адным паветр. баі збіў столькі самалётаў ворага. Загінуў у гэтым баі. Пахаваны ў в. Зорынскія Двары Іўнянскага р-на Белгарадскай вобл. На 597-м км аўтамагістралі Масква — Сімферопаль, у Полацку і ў в. Скоў Сенненскага р-на яму пастаўлены помнікі. Яго імя прысвоена саўгасу ў Сенненскім р-не, Машканскай сярэдняй школе, на будынку якой устаноўлена мемар. дошка, Віцебскаму аэраклубу, яго імем названы сквер у Віцебску, вуліцы ў гарадах Віцебск, Мінск, Полацк, Сянно, г. п. Бягушэўск.

**ГАРАВЫ́Я**, вёска на тэр. Полацкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася ў Гаранскім сельсавеце. Перад вайной у ёй жылі 182 чал. У маі 1944, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 31 жыхара, вёску (41 двор) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ГАРАГЛЯ́Д** Леанід Іванавіч (13.4.1916, Ашхабад — 14.7.1986), Герой Сав. Саюза (1948), ген.-маёр авіяцыі (1953). Чл. КПСС з 1939. Беларус. Скончыў акадэміі Ваенна-паветр. (1941), Генштаба (1950). Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну з кастр. 1941 на Паўд.-Зах., 2-м і 1-м Укр. франтах, нач. штаба авіядывізіі, камандзір знішчальнага авіяпалка, дывізіі. Зрабіў 146 баявых вылетаў, удзельнічаў у 53 паветр. баях, асабіста збіў 15 самалётаў праціўніка і 6 у групе. Да 1976 у Сав. Арміі.

**ГАРАДАВІКО́Ў** Басан Бадзьмінавіч (15.11. 1910, хутар Мокрая Яльмута Пралетарскага р-на Растоўскай вобл.— 17.8.1983), Герой Сав. Саюза (1945), ген.-лейтэнант (1959). Чл. КПСС з 1939. У Чырв. Арміі з 1927. Скончыў ваен. акадэміі імя Фрунзе (1938), каманднa-штурманскага саставу ВПС (1941), Генштаба (1955). З 1941 на Зах., Крымскім, 2-м Прыбалт., 3-м Бел., 1-м Далёкаўсх. франтах. Удзельнік абароны Севастопаля, Каўказа. Стралковая дывізія пад яго камандаваннем вызначылася ў аперацыі па акружэнню і разгрому віцебскай групоўкі праціўніка ў чэрв. 1944, у баях за вызваленне Вільнюса, Каўнаса, у час прарыву абароны праціўніка ва Усх. Прусіі. Да 1961 у Сав. Арміі. У 1961—78 1-ы сакратар Калмыцкага абкома КПСС. Чл. Цэнтр. Рэвізійнай Камісіі КПСС у 1961—66, канд. у чл. ЦК КПСС у 1966—80. Дэп. ВС СССР у 1963—80.

**ГАРАДЗЕ́ЦКІ БОЙ 1943** паміж *партызанскім палком 425-м* і карным атрадам гітлераўцаў у в. Гарадзец Быхаўскага р-на 30.11.1943.

Камандаванню партыз. палка стала вядома, што карнікі занялі в. Гарадзец, жыхароў гэтай і суседніх вёсак (больш за 70 жанчын, старых і дзяцей) зачынілі ў трох хлявах і збіраліся падпаліць іх 1.12.1943. У раён в. Гарадзец у 18 гадз 30.11.1943 была паслана разведка, следам за ёй 150 байцоў 1-га батальёна палка на чале з П. М. Цагельнікавым хутка і скрытна зрабілі 12-кіламетровы марш да паўн. ускраіны Гарадзецкага лесу, дзе ў 23 гадз камандаванне батальёна атрымала ад разведчыкаў даныя пра колькасць, размяшчэнне і ўзбраенне гарнізона. Былі выстаўлены засады на дарогах з боку г. Быхаў і в. Залотва Быхаўскага р-на. Дзве штурмавыя партыз. групы адкрылі кулямётны агонь і закідалі гранатамі будынкі, дзе заселі карнікі. Другая частка партызан, якая трыма групамі вызваліла зачыненых у 3 хлявах жыхароў, сустрэла ўпартае супраціўленне ворага і была контратакавана. Завязалася рукапашная схватка, зыход якой вырашыў падаспеўшы рэзервовы ўзвод партызан. 66 з 70 карнікаў былі знішчаны, мясцовыя жыхары выратаваны. Партызаны страцілі 5 чалавек забітымі і паранеными.

*У. С. Пасэ.*

**ГАРАДЗІ́ШЧА**, гар. пасёлак у Баранавіцкім р-не, на р. Сэрвач. За 25 км на Пн ад Баранавіч, на аўтадарозе Баранавічы — Навагрудак. У 1940—62 цэнтр Гарадзішчанскага р-на. Акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі 24.6. 1941. У раёне фашысты, знішчылі 8739 чал. мясцовага насельніцтва, у т. л. ў Г. 4006 чал. На тэр. раёна дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б (ліп. 1943—10.7.1944) і ЛКСМБ (15.8. 1943—10.7.1944), партыз. брыгады «25 год БССР», Першамайская, імя Суворава (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«Партызан Беларусі»*. Вызвалены 8.7.1944 часцямі 323-й стралк. дывізіі (ген.-маёр В. Ц. Маслаў) 35-га стралк. корпуса 3-й арміі 1-га Бел. фронту ў час наступлення на баранавіцка-слонімскім на-

прамку ў перыяд *Беларускай аперацыі 1944*. У Г. брацкая магіла 262 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Айч. вайну, на ёй устаноўлены помнік.

*М. І. Камінскі.*

**ГАРАДЗІ́ШЧА,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на ПдЗ ад в. Стараселле Каханавіцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 96 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»,* фашысты загубілі 60 жыхароў, вёску (22 двары) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1982 на месцы вёскі насыпаны курган, на вяршыні якога пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ГАРАДО́К,** горад, цэнтр Гарадоцкага р-на, на р. Гаражанка (басейн Зах. Дзвіны). За 39 км на Пн ад Віцебска, 2 км ад чыг. ст. Гарадок на лініі Віцебск — Невель, на аўтадарозе Віцебск — Невель. 7,3 тыс. жыхароў у 1939. Акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі 10.7.1941. У баі за 2,5 км на Пн ад Г. вызначыўся арт. дывізіён капітана А. В. Чапаева, які пры падтрымцы танкаў і роты пяхоты 10 ліп. каля 20 гадз стрымліваў наступленне ворага. У перыяд акупацыі на тэр. раёна дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б (9.6.1942—4.11.1943) і ЛКСМБ (23.7.1942—4.11.1943), партыз. брыгады: 1-я Бел., 1-я Віцебская, 2-я Бел. імя Панамарэнкі, 4-я Беларуская, Багушэўская, «За Савецкую Беларусь», імя Кутузава, імя Леніна, імя Чырванасцяжнага Ленінскага камсамола, асобныя атрады Я. М. Дзюрбы і Іванова — Я. Р. Нароенкі (гл. адпаведныя артыкулы). За час акупацыі горад амаль поўнасцю разбураны, фашысты ў горадзе і раёне знішчылі 5084 мясцовых жыхароў, у т. л. ў створаным імі лагеры смерці 2,5 тыс. чал. Вызвалены 24.12.1943 воінамі 5-й (ген.-маёр М. Л. Салдатаў), 26-й (ген.-маёр М. М. Карджанеўскі) і 83-й (ген.-маёр Я. С. Вараб'ёў) гвардз. стралк. дывізій 8-га гвардз. стралк. корпуса; 1-й (ген.-маёр М. А. Крапоцін) і 11-й (ген.-маёр А. І. Максімаў) гвардз. стралк. дывізій 16-га гвардз. стралк. корпуса; 10-й гвардз. (палк. А. Р. Бурлыга) і 159-й (падпалк. Ф. Ф. Сямібратаў) танк. брыгад, 15-й (палк. А. А. Корачкін) і 21-й (ген.-маёр К. М. Самборскі) арт. дывізій прарыву, 10-й штурмавой інжынерна-сапёрнай брыгады (палк. Е. Г. Палякоўскі) 11-й гвардз. арміі 1-га Прыбалт. фронту ў выніку *Гарадоцкай аперацыі 1943*. 12 часцям і злучэнням Чырв. Арміі, якія вызначыліся пры вызваленні горада, прысвоены ганаровыя найменні «Гарадоцкіх» (гл. *Гарадоцкія вайсковыя злучэнні і часці*). У Г. магіла ахвяр фашызму, на ёй помнік; помнікі Вызвалення, у гонар воінаў-вызваліцеляў, мемар. комплекс на ваен. могілках, дзе пахавана больш за 5 тыс. сав. воінаў і запалены Вечны агонь каля магілы Невядомага салдата. Працуе *Гарадоцкі краязнаўчы музей.*

*М. І. Камінскі.*

**ГАРАДО́ЦКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1943,** наступальная аперацыя войск правага крыла 1-га Прыбалт. фронту (ген. арміі І. Х. *Баграмян*) у раёне Гарадка Віцебскай вобл. 13—31 снеж.

Удзельнічалі 11-я гвардз. (ген.-лейт. К. М. *Галіцкі*), часці 4-й ударнай (ген.-лейт. В. І. Швяцоў), 43-й (ген.-лейт. К. Дз. *Голубеў*), 3-й паветр. (ген.-лейт. М. П. *Папівін*) армій, 1-ы, 5-ы танкавыя і 3-і гвардз. кав. карпусы. Планавалася сустрэчнымі ўдарамі 11-й гвардз. і 4-й ударнай армій у напрамку ст. Бычыха разграміць гарадоцкую групоўку праціўніка, ліквідаваць плацдарм ворага, т. зв. Гарадоцкі выступ, авалодаць Гарадком і наступаць у напрамку Віцебска.



М. І. Гапяёнак. А. К. Гаравец. Л. І. Гарагляд.




Гарадоцкі выступ абаранялі ням. войскі 3-й танк. арміі групы армій «Цэнтр» і паўд. крыла 16-й арміі групы армій «Поўнач». Каб не дапусціць прарыву фронту і злучэння сав. войск з бел. партызанамі, ням. камандаванне перакінула сюды 2 пяхотныя дывізіі з-пад Ленінграда, 5 пяхотных і 1 танк. дывізіі з паўд. крыла групы армій «Цэнтр».

13 снеж. 11-я гвардз. і 4-я ўдарная арміі пры падтрымцы танкаў і артылерыі пачалі штурм варожых пазіцый. Войскі 4-й ударнай арміі прарвалі гал. паласу абароны праціўніка. У паласе наступлення 11-й гвардз. арміі, якая наносіла гал. ўдар, праціўнік аказаў упартае супраціўленне, і толькі нязначныя сілы здолелі ўклініцца ў яго абарону. 14 снеж. на правым флангу 11-й гвардз. арміі ўведзены ў бітву 1-ы танк. корпус і 83-я гвардз. стралк. дывізія. 16 снеж. 1-ы танк. корпус выйшаў у раён ст. Бычыха, дзе злучыўся з 5-м танк. корпусам 4-й ударнай арміі. Да 20 снеж. вызвалена больш за 500 населеных пунктаў. 24 снеж. войскі 11-й гвардз. арміі авалодалі Гарадком. У выніку Г. а. войскі фронту прасунуліся на 60 км, разграмілі 6 пяхотных і 1 танк. дывізію праціўніка, ліквідавалі Гарадоцкі выступ, перарэзалі чыгунку Полацк — Віцебск. Былі створаны ўмовы для наступлення ў раёне Віцебска. 12 часцям і злучэнням, якія вызначыліся ў аперацыі, нададзены ганаровыя найменні «Гарадоцкіх» (гл. *Гарадоцкія вайсковыя злучэнні і часці*).

*К. М. Галіцкі.*

**ГАРАДО́ЦКАЯ СТРАЛКО́ВАЯ ДЫВІ́ЗІЯ,** гвардзейская ордэна Леніна, Чырванасцяжная, ордэна Суворава.

Сфарміравана ў жн. 1939 у Алтайскім краі як 107-я стралк. дывізія. У ліп.—вер. 1941 у складзе 24-й арміі Рэзервовага фронту вяла баі ў раёне г. Ельня; за мужнасць, адвагу і гераізм атрымала найменне 5-й гвардз. стралк. дывізіі (26.9. 1941). Удзельнічала ў абаронных і наступальных баях пад Масквой, узнаг. ордэнам Чырв. Сцяга (3.5.1942). З ліп. 1943 у складзе 11-й гвардз. арміі.

Удзельнічала ў Арлоўскай і *Бранскай аперацыі 1943*, у снеж. 1943—

у *Гарадоцкай аперацыі 1943.* За баі па авалоданні г. Гарадок, які з'яўляўся важным апорным пунктам абароны ням.-фаш. войск, дывізія ўдастоена ганаровага наймення «Гарадоцкай» (24.12.1943). Разам з інш. злучэннямі 11-й гвардз. арміі 3-га Бел. фронту дывізія ўдзельнічала ў *Беларускай аперацыі 1944:* у ходзе *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944* прарвала абарону ворага на аршанскім напрамку, імклівым рыўком выйшла да р. Бярэзіна, з ходу фарсіравала яе і прыняла ўдзел у *Мінскай аперацыі 1944.* Ва ўзаемадзеянні з інш. злучэннямі яна завязала бой за Барысаў, 1.7.1944 поўнасцю авалодала горадам; узнагароджана ордэнам Суворава II ступені (10.7.1944). Удзельнічала ў *Вільнюскай аперацыі 1944,* фарсіраванні р. Нёман і захопе на ёй плацдарма, у Каўнаскай, Гумбіненскай, Усх.-Прускай аперацыях і штурме Кёнігсберга.

Узнагароджана ордэнам Леніна (17.5.1945). За час вайны 13 743 воіны дывізіі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі СССР, 18 з іх удастоены звання Героя Сав. Саюза. Дывізіяй камандавалі: палк., з студз. 1942 ген.-маёр П. В. Міронаў (чэрв. 1941—крас. 1942), падпалк. А. П. Мальцаў (крас.—май 1942), ген.-маёр М. Е. Ярохін (май — вер. 1942), палк., з ліст. 1942 ген.-маёр А. К. Паўлаў (вер. 1942 — люты 1943), палк., з вер. 1943 ген.-маёр М. Л. Салдатаў (люты 1943 — крас. 1944), палк. Н. І. Краўцоў (крас.— май 1944), палк. М. Л. Волкаў (май 1944 — студз. 1945), ген.-маёр Г. Б. Петэрс (студз. 1945— да канца вайны). *М. І. Камінскі.*

**ГАРАДО́ЦКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты 24.12.1976 у г. Гарадок. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, мае 1020 экспанатаў асн. фонду, пл. 31 м². Экспануюцца матэрыялы пра абарончыя баі 179-й стралк. дывізіі, подзвіг 74 сав. воінаў, якія загінулі каля в. Даўгаполле, пра ўдзел землякоў у абароне Брэсцкай крэпасці, узнікненне і разгортванне падполля і партыз. руху ў раёне: спіс асабовага складу 4-га атрада 2-й Бел. партыз. брыгады, матэрыялы пра юных партызан А. Кірылава, Ф. Маскалёва, Г. Спірыдонаву, разведчыкаў І. Кавалёва, Л. Сухарукава, пра ўдзельніцу падп. камсам. арг-цыі «Маладая гвардыя» ў Краснадоне зямлячку Н. І. *Старцаву.* Прадстаўлены дакументы, асабістыя рэчы, фатаграфіі партызан і ўдзельнікаў падполля, карта-схема спаленых гітлераўцамі вёсак у раёне, матэрыялы аб злачынствах ням.-фаш. захопнікаў, газ. «Боевая тревога». Матэрыялы аб вызваленні горада і раёна ад фаш. акупантаў у ходзе *Гарадоцкай аперацыі 1943,* у т. л. аб Герою Сав. Саюза А. В. Цюрыне, ген.-маёры М. М. Каржанеўскім, аб ганаровых грамадзянах горада, вайсковых часцях і злучэннях, якія атрымалі ганаровыя найменні «Гарадоцкіх», аб земляках — удзельніках узяцця Берліна. Экспануюцца карціны «Подзвіг Анатолія Кірылава» (маст. П. Явіч), «Подзвіг М. М. Рудыка» і «Подзвіг І. М. Антонава» (маст. М. Глушко), скульптура «Перамога» (дрэва, скульпт. М. Кандрацьеў) і інш. *К. Я. Уверская.*

**ГАРАДО́ЦКІЯ ВАЙСКО́ВЫЯ ЗЛУЧЭ́ННІ І ЧА́СЦІ,** часці і злучэнні Чырвонай Арміі, якія атрымалі ганаровае найменне «Гарадоцкіх». За вызваленне г. Гарадок (24.12.1943) у ходзе *Гарадоцкай аперацыі 1943* гэтае найменне паводле загада ВГК ад 24.12.1943 атрымалі 12 злучэнняў і часцей 11-й гвардз. і 3-й паветр. армій 1-га Прыбалт. фронту: 5-я (ген.-маёр М. Л. Салдатаў), 11-я (ген.-маёр А. І. Максімаў), 26-я (ген.-маёр М. М. Каржанеўскі) і 83-я (ген.-маёр Я. С. Вараб'ёў) гвардзейскія стралк. дывізіі, 2-я гвардз. мінамётная дывізія (палк. І. А. Апрэлкін), 259-я знішчальная авіяц. дывізія (палк. Я. А. Курбатаў), 10-я гвардз. танк. брыгада (палк. А. Р. Бурлыга), 17-я знішчальна-процітанк. арт. брыгада (палк. В. П. Нялепа), 488-ы пушачны арт. полк (палк. М. Я. Штульберг), 523-і карпусны арт. полк (палк. П. Я. Торапаў), 545-ы мінамётны полк (падпалк. А. П. Смірноў), 6-ы гвардз. інж. батальён (маёр А. І. Еўграфаў).

Войскам, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Гарадка, загадам ВГК ад 24.12.1943 аб'яўлена падзяка, у Маскве дадзены салют 12 арт. залпамі з 124 гармат. *М. І. Камінскі.*

**ГАРАДСКІ́Я АНТЫФАШЫ́СЦКІЯ АРГАНІЗА́ЦЫІ.** Дзейнічалі на акупіраванай тэр. Беларусі ў Беластоку, Брэсце, Гродне і Слоніме. Гл. *Брэсцкая гарадская антыфашысцкая арганізацыя, Слонімская раённая антыфашысцкая арганізацыя.*

**ГАРАДСКІ́Я ПАДПО́ЛЬНЫЯ КАМІТЭ́ТЫ КП(б)Б,** органы парт. кіраўніцтва ўсенар. барацьбой працоўных супраць ням.-фаш. захопнікаў у акупіраваных гарадах Беларусі ў 1941—44. Стваралі і ўзначальвалі парт. падполле і партыз. рух, праводзілі арганізатарскую і паліт. работу сярод насельніцтва. Іх дзейнасцю кіравалі *Цэнтральны камітэт КП(б)Б, абласныя падпольныя камітэты КП(б)Б,* міжраённыя парт. к-ты (цэнтры). На Беларусі дзейнічалі 8 гаркомаў: Баранавіцкі, Брэсцкі, Вілейскі, Віцебскі, Гомельскі, Калінкавіцкі, Мінскі, Пінскі, 2 гаркомы-райкомы КП(б)Б — Барысаўскі і Лідскі (гл. адпаведныя артыкулы).

8.7.1941 ЦК КП(б)Б на акупіраваную тэр. Беларусі з-за лініі фронту накіраваў 1-ы састаў Барысаўскага падп. гаркома-райкома. 16.7.1941, у дзень акупацыі Оршы, пакінутыя для падп. работы камуністы арганізавалі парт. цэнтр па кіраўніцтву падполлем у горадзе і раёне. У жн. 1941 стварылі парт. цэнтр камуністы Брэста. Хаця гэтыя цэнтры не перараслі ў агульнагар. кіруючыя парт. к-ты, яны сыгралі значную ролю ў мабілізацыі насельніцтва Оршы і Брэста на барацьбу з акупантамі. Загадзя быў створаны і перайшоў на нелегальнае становішча з акупацыяй горада 19.8.1941 Гомельскі падп. гарком. Па ініцыятыве камуністаў, якія апынуліся ў акупіраваным Мінску, у канцы ліст. — пач. снеж. 1941 створаны Мінскі падп. гарком. У 1943—44 гар. падп. к-ты, у т. л. Мінскі і Брэсцкі, падбіраліся і зацвярджаліся ЦК, абкомамі і міжрайпарторганамі КП(б)Б. Вопыт 1941—42 паказаў, што базіраванне гаркомаў у гарадах звязана з вял. цяжкасцямі і ахвярамі. Былі арыштаваны і пакараны смерцю амаль усе члены Мінскага гаркома, з прычыны гібелі кіраўнікоў спынілі работу Барысаўскі гарком-райком, Брэсцкі і Аршанскі парт. цэнтры. Таму створаныя ў 1943—44 гаркомы, як правіла, базіраваліся пры партыз. брыгадах і атрадах, па сваёй структуры не адрозніваліся ад *раённых падпольных камітэтаў КП(б)Б.* Арганізатарскую і парт.-паліт. работу ў гарадах яны праводзілі праз сувязных, апіраючыся на партыз. фарміраванні. Баранавіцкі і Мінскі гаркомы, Барысаўскі і Лідскі гаркомы-райкомы мелі друкаваныя органы — газеты. *А. А. Тозік.*

**ГАРАДСКІ́Я ПАДПО́ЛЬНЫЯ КАМІТЭ́ТЫ ЛКСМБ,** кіруючыя камсам. органы на акупіраванай ням.-фаш. захопнікамі тэр. Беларусі ў 1941—44. Іх дзейнасць узначальваў *Цэнтральны Камітэт ЛКСМБ, абласныя падпольныя камітэты ЛКСМБ, міжраённыя падпольныя камітэты ЛКСМБ.* Большасць сакратароў і членаў падп. гаркомаў камсамола, пакінутых для работы ў гарадах, неўзабаве былі схоплены акупантамі і загінулі. Створаныя ў розны час падп. гаркомы працавалі на ўсе гарады, дзе да вайны былі гаркомы камсамола (акрамя Мазыра і Оршы, дзе функцыі гаркомаў выконвалі падп. райкомы ЛКСМБ). Стварылі і ўзначалілі камсам.-маладзёжнае падполле, праводзілі палітыка-выхаваўчую і арганізатарскую работу сярод юнакоў і дзяўчат, уздымалі іх на барацьбу супраць акупантаў. На Беларусі дзейнічалі падп. 13 гаркомаў і 1 гарком-райком ЛКСМБ: Бабруйскі, Баранавіцкі, Барысаўскі, Беластоцкі, Брэсцкі, Вілейскі, Віцебскі, Гомельскі, Гродзенскі, Магілёўскі, Мінскі, Мінскі Паўднёвы, Пінскі, Лідскі гарком-райком (гл. адпаведныя артыкулы). З улікам вопыту і практыкі падпольных гаркомаў КП(б)Б з восені 1942 падп. гаркомы ЛКСМБ базіраваліся пры партыз. фарміраваннях і знаходзіліся пад узброенай аховай партызан. *Р. М. Шаўяла.*

**ГАРАДЫ́-ГЕРО́І,** гарады СССР — Адэса, Валгаград, Керч, Кіеў, Ленінград, Масква, Мінск, Мурманск, Наварасійск, Севастопаль, Смаленск, Тула, якім за гераічную абарону і выдатныя заслугі перад Радзімай у Вял. Айч. вайну Указамі Прэзідыума ВС СССР прысвоена ганаровае званне «Горад-герой» з уручэннем ордэна Леніна і медаля «Залатая Зорка». Мінску прысвоена званне «Горад-герой» 26.6. 1974 за выдатныя заслугі перад Радзімай, мужнасць і гераізм, праяўленыя працоўнымі горада ў барацьбе супраць гітлераўскіх акупантаў, у раз-

гортванні ўсенар. партыз. руху на Беларусі ў Вял. Айч. вайну і ў азнаменаванне 30-годдзя вызвалення БССР ад ням.-фаш. захопнікаў. Ганаровае званне «Крэпасць-герой» прысвоена Брэсцкай крэпасці 8.5.1965 за выключныя заслугі яе абаронцаў перад Радзімай — выдатную воінскую доблесць, масавы гераізм і мужнасць, праяўленыя ў барацьбе з ням.-фаш. агрэсарамі, і ў азнаменаванне 20-годдзя Перамогі сав. народа ў Вял. Айч. вайне.

**ГАРА́НІН** Анатоль Мікалаевіч (20.11. 1898, Магілёў — 16.9.1970), ген.-лейт. артылерыі (1944). Чл. КПСС з 1942. Скончыў арт. школу (1923). Удзельнік грамадз., сав.-фінл. 1939—40 войнаў. У Айч. вайну нач. упраўлення ППА, нам. камандуючага артылерыяй па ППА Карэльскага і Паўд.-Зах. франтоў. Удзельнік абароны Сав. Запаляр'я. З снеж. 1943 да вер. 1946 нам. нач. Цэнтр. штаба войск ППА Сав. Арміі.

**ГАРБА́ТАЎ** Аляксандр Васілевіч (23.3. 1891, в. Пахоціна Палехскага р-на Іванаўскай вобл.— 7.12.1973), Герой Сав. Саюза (1945), ген. арміі (1955). Чл. КПСС з 1919. У арміі з 1912, у Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік 1-й сусв., грамадз. войнаў. Скончыў кав. камандныя курсы (1926), курсы ўдасканалення вышэйшага камсаставу (1930). У чэрв. 1941 камбрыг. З ліп. 1941 на Паўд.-Зах., Данскім, Сталінградскім, Бранскім, Цэнтр., Бел., 1-м і 2-м Бел. франтах: нам. камандзіра корпуса, камандзір дывізіі, корпуса, інспектар кавалерыі фронту, нам. камандуючага арміяй. У чэрв. 1943— маі 1945 камандуючы 3-й арміяй, якая ўдзельнічала ў Курскай бітве, ***Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943, Рагачоўска-Жлобінскай аперацыі 1944, Беларускай аперацыі 1944,*** вызваленні гарадоў Касцюковічы, Прапойск (Слаўгарад), Рагачоў, Мінск, у акружэнні і знішчэнні гітлераўцаў пад Бабруйскам, у фарсіраванні Сожа, Дняпра, Бярэзіны. Удзельнік вызвалення Польшчы, баёў ва Усх. Прусіі. Пасля вайны на камандных пасадах у Сав. Арміі. Канд. у чл. ЦК КПСС у 1952—61. Дэп. ВС СССР у 1946—62. Аўтар кн. «Гады і войны» (1965). Яго імем названы вуліцы ў гарадах Асіповічы, Ваўкавыск, Гомель, у г. п. Свіслач.

**ГАРБАЦЭ́НКАЎ** Максім Трыфанавіч (6.7.1915, в. Вял. Хутары Хіславіцкага р-на Смаленскай вобл.—13.3.1981), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай і Вілейскай абл. Чл. КПСС з 1941. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КПБ (1955), ВПШ пры ЦК КПСС (1958). З 1933 на сав. рабоце. У партызанах з лют. 1942; камандзір дыверсійнага атрада, у лют.— маі 1943 камісар, у маі 1943— ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады імя У. І. Леніна,* адначасова чл., з сак. 1944 сакратар Докшыцкага падп. РК КП(б)Б. У 1944—77 на парт. і сав. рабоце.

**ГАРБАЧО́Ў** Яўстрат Дзянісавіч (28.12.1915, в. Хамічы Калінкавіцкага р-на — 31.1.1942), адзін з арганізатараў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1939. З 1938 у органах НКУС БССР. У пач. Айч. вайны чл. штаба па арганізацыі партыз. руху, створанага Мінскім падп. абкомам КП(б)Б, чл. Любанскай раённай парт. тройкі. У канцы 1941 правёў аперацыю па захопу важных ням. дакументаў пра работу ням.-фаш. разведкі. Загінуў у баі. У г. Любань у мемар. скверы на яго магіле пастаўлены абеліск; яго імя прысвоена калгасу ў Любанскім р-не.

**ГАРБАЧЭ́ВА-МУРАГО́ЎСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ,** састаўная частка *Расонскага партыйна-камсамольскага падполля.* Дзейнічала з жн. 1941 да чэрв. 1942 у вёсках Гарбачэва і Мурагі Расонскага р-на. Уваходзіла 11 чалавек, у т. л. камуністы — даваен. старшыня сельпо І. М. *Шалаеў* (кіраўнік), б. ваеннаслужачы У. Б. Гаўрыленка, заг. медпункта ўрач Г. Е. Ланеўская, б. заг. райземаддзела У. В. Петрачэнка, калгасніца А. Ф. Плюскова, старшыня калгаса Дз. С. Фёдараў, камсамольцы — б. настаўнікі А. Я. Арлоў, І. Ф. *Канарскі,* б. вучні Г. А. і Л. А. Ланеўскія, беспарт. С. С. Гаўрыленка.

Члены групы размнажалі і распаўсюджвалі ў вёсках Гарбачэва, Забор'е, Куляшова, Люцкава, Мурагі і інш. зводкі Саўінфармбюро, сав. лістоўкі, вялі антыфаш. агітацыю. Г. Е. Ланеўская на сваёй кватэры і ў лесе тайна стварыла шпіталь, дзе знаходзіліся на лячэнні 5 параненых камандзіраў Чырв. Арміі. Арлоў разам з членамі Расонскага падполля разграмілі Гарбачэўскі маслазавод. На шашы Расоны — Невель падпольшчыкі спалілі драўляныя масты — 30-метровы каля в. Язы і 20-метровы каля в. Шаховічы, у выніку важная ў стратэгічных адносінах дарога не функцыяніравала на працягу 3 тыдняў. Спілаваўшы слупы на адрэзку ў 1 кіламетр, яны пашкодзілі тэлефонна-тэлеграфную сувязь ворага. У ліст. 1941 паліцэйскія высачылі падпольшчыкаў. І. М. Шалаеў і Г. Е. Ланеўская пасля катаванняў былі павешаны, Дз. С. Фёдараў і параненыя камандзіры Чырв. Арміі — расстраляны. Рыхтуючыся да партыз. барацьбы, падпольшчыкі здабылі 6 вінтовак і аўтаматаў з дыскамі, 2 пісталеты, гранаты, патроны, тапаграфічную карту мясцовасці. Падабралі для партыз. атрада 15 чалавек. Камандзірам атрада імя Калініна Расонскай партыз. брыгады імя Сталіна стаў С. С. Гаўрыленка, камісарам — У. Б. Гаўрыленка. Матэрыялы пра дзейнасць Гарбачэва-Мурагоўскага падполля экспануюцца ў *Расонскім музеі баявой садружнасці* рус., бел., латвійскіх і літоўскіх партызан. У 1976 у в. Гарбачэва І. М. Шалаеву ўстаноўлена мемар. дошка. *Л. А. Паткоўскі.*

**ГАРБУНО́Ў** Цімафей Сазонавіч (6.8. 1904, в. Саннікі Бешанковіцкага р-на — 8.10.1969), парт. і дзярж. дзеяч БССР, бел. сав. гісторык. Акадэмік АН БССР (1959). Чл. КПСС з 1926. Скончыў БДУ (1936), Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК ВКП(б) (1948).

А. М. Гаранін. А. В. Гарбатаў.



З 1939 рэдактар газ. «Звязда». У 1941—47, 1950—60 сакратар ЦК КПБ. У Айч. вайну прадстаўнік ЦК КП(б)Б у Палітупраўленні Зах. фронту, адзін з арганізатараў партыз. руху на Беларусі. У 1942—45 рэдактар час. «Славяне», адначасова ў 1942—46 узначальваў *Камісію па гісторыі Айчыннай вайны* пры ЦК КП(б)Б. У 1949—50 нам. старшыні праўлення Усесаюзнага т-ва па распаўсюджанню паліт. і навук. ведаў. рэдактар час. «Наука и жизнь». У 1960—67 акадэмік-сакратар Аддзялення грамадскіх навук АН БССР. Чл. ЦК КПБ у 1940—66, чл. Бюро ЦК КПБ у 1945—47, 1950—60. Дэп. ВС СССР у 1946—62, ВС БССР у 1947—67. У 1955—63 Старшыня ВС БССР. Яго імем названа вуліца ў г. п. Бешанковічы.

**ГАРДЗЕ́ЙЧЫК** Барыс Іванавіч (ліп. 1901, в. Бярэзаўцы Іўеўскага р-на — 18.9.1966), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1943. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КПБ (1953). Напярэдадні вайны на гасп. рабоце ў Васілішкаўскім р-не. У 1941 адзін з арганізатараў падп. антыфаш. групы ў Васілішкаўскім р-не. У партызанах з канца 1941: камандзір групы, узвода, адначасова з мая 1942 чл. Акруговага бел. антыфашысцкага к-та Баранавіцкай вобл. (гл. *Баранавіцкая акруговая антыфашысцкая арганізацыя),* з вер. 1943 камісар атрада, у лют.— ліп. 1944 — ***партызанскай брыгады імя Ленінскага камсамола,*** адначасова чл. Васілішкаўскага падп. РК КП(б)Б. З 1944 на сав. рабоце.

**«ГАРНІЗО́Н Ф. І. ПАЎЛО́ЎСКАГА»,** гл. ў арт. *Партызанскі гарнізон, Партызанская брыгада 123-я Акцябрская імя 25-годдзя БССР.*

**ГАРНІЗО́НЫ НЯМЕ́ЦКА-ФАШЫ́СЦКІЯ** на часова акупіраванай тэрыторыі Беларусі, ваенна-паліцэйскія падраздзяленні з шматлікімі функцыямі стварэння бяспекі тылу ням.-фаш. войск, паліт. тэрору, эканамічнага грабяжу; з'яўляліся ўвасабленнем палітыкі запалохвання і гвалту, сродкам барацьбы з Сав. уладай і сав. патрыётамі. У сістэме акупацыйнага рэжыму яны павінны былі стаць ваен., эканамічнымі і палітычнымі апорнымі пунктамі фаш. «новага парадку» на месцах. Размяшчаліся ў гарадах, гар. пасёлках, вёсках ва ўмацаваных будынках школ, бальніц, клубаў, прамысловых прадпрыемстваў, установах, на важных аб'ектах — чыг. станцыях, раз'ездах, мастах. Гарнізоны забяспечваліся радыё- і тэлефоннай сувяззю, мелі ўзгодненыя сістэмы баявога ўзаемадзеяння, неабходны транспарт. Апорныя пункты асобных гарнізонаў ці сістэма іх маглі быць заняты рэгулярнымі часцямі ням.-фаш. войск і без значнага ваенна-інж. даабсталявання пераўтвораны ва ўмацаваныя абарончыя палосы перад фронтам наступаючых сав. войск. У ліст. 1942 аператыўнае ўпраўленне генштаба сухапутных войск Германіі ў спец. пастанове ставіла перад начальнікамі гарнізонаў задачу стварыць такую сістэму абароны, якая выключала магчымасць раптоўнага нападу і магла ўстаяць перад атакамі партызан. Гітлераўскае камандаванне патрабавала абараняць гарнізоны да апошняга салдата. За здачу іх пагражала суровае пакаранне. Найбольш умацаванымі гарнізонамі былі раёны, прылеглыя да зон актыўных дзеянняў партыз. фарміраванняў, вобласць армейскага тылу ням. групы армій «Цэнтр», слабыя ўчасткі найб. важных магістральных і ракадных камунікацый. Сістэмай гарнізонаў прыкрываліся подступы да гарадоў, вузлоў чыгунак і шашы.

Ц. С. Гарбуноў. Ц. Я. Гарноў.



Напрыклад, 200-кіламетровы ўчастак дарогі Полацк — Маладзечна абаранялі ад партызан 23 гарнізоны (агульная колькасць 2 тыс. салдат); паміж Полацкам і ст. Бігосава на чыг. магістралі Рыга — Арол створана 29 гарнізонаў (3,5 тыс. салдат і паліцэйскіх); у 23 гарнізонах вакол Барысава (у радыусе да 20 км) размяшчалася каля 6 тыс. салдат ахоўных палкоў і паліцэйскіх; уздоўж шашы і чыгунак ад Оршы да Крупак (больш за 100 км) гітлераўцы ўстанавілі 20 гарнізонаў (каля 4 тыс. салдат). Каля 60 гарнізонаў (10 тыс. салдат і паліцэйскіх) акружалі зоны дыслакацыі партыз. брыгад і атрадаў Палескай вобл. Толькі ў раёне дыслацыравання партыз. брыгады 1-й Беларускай у Суражскім р-не знаходзілася больш за 30 гарнізонаў (каля 6 тыс. салдат і паліцэйскіх).

Барацьба партызан Беларусі супраць варожых гарнізонаў вялася з першых дзён акупацыі. Зімою 1941—42 гэта былі эпізадычныя налёты слабых яшчэ партыз. атрадаў і груп патрыётаў на параўнальна невял. апорныя пункты ворага (гл. *Багушэўскі бой 1941, Бобрыкская аперацыя 1942, Вятчынскі бой 1942).* ЦК КП(б)Б, ЦШПР, БШПР арыентавалі падп. партыйныя органы і камандаванне партыз. фарміраванняў на разгром перш за ўсё буйных варожых гарнізонаў, разбурэнне ўсёй сістэмы ням.-фаш. апорных пунктаў. З восені 1942 з узмацненнем кіраўніцтва, удасканаленнем каардынацыі і ўзаемадзеяннем партыз. атрадаў і брыгад, павышэннем арганізаванасці, баявой вывучкі і ваен. майстэрства байцоў і камандзіраў стала магчымым нанясенне адначасовых удараў па вузлах абароны ворага аб'яднанымі сіламі партыз. фарміраванняў на вял. аператыўнай прасторы. Асноўнымі тактычнымі прыёмамі барацьбы партызан сталі раптоўныя імклівыя налёты, блакіраванне і поўная ізаляцыя ўмацаваных гарнізонаў шляхам засад, мініраванне шляхоў зносін, знішчэнне ліній сувязі, дыверсій падпольшчыкаў унутры гарнізонаў, адначасовыя ўдары буйных партыз. злучэнняў па сістэме варожых гарнізонаў, а таксама ў час *партызанскіх рэйдаў*. Разгром гарнізонаў меў вырашальнае значэнне ў стварэнні і пашырэнні тэр. *партызанскіх зон,* зрыве карных аперацый акупантаў, ратаванні сав. людзей ад знішчэння ці вывазу на катаргу ў Германію. Разгром гарнізонаў звужаў аператыўную тактычную прастору праціўніка, зрываў ваен. і эканамічныя планы акупантаў, меў вял. значэнне для папаўнення партызанамі запасаў зброі, боепрыпасаў, амуніцыі, харчавання, наносіў значныя страты ворагу ў жывой сіле і тэхніцы. Толькі ў сак. 1943 партызаны (па няпоўных звестках) зрабілі 70 нападаў на фаш. гарнізоны, забілі і паранілі больш за 1110 гітлераўцаў. Барацьба партызан Беларусі з гарнізонамі насіла актыўны, наступальны характар, таксама ўключала і прапаганду сярод салдат і паліцэйскіх гарнізонаў. У барацьбе з варожымі гарнізонамі партызаны праяўлялі выключную мужнасць і адвагу, волю да перамогі над ворагам, паказвалі высокую баявую вывучку і майстэрства. Значнай асаблівасцю з'яўлялася цеснае ўзаемадзеянне партызан з падпольшчыкамі і насельніцтвам. Найбольш буйнымі баявымі аперацыямі партызан супраць Г. н.-ф. былі *Бягомльская аперацыя 1942, Бялыніцкія аперацыі 1943, Докшыцка-Крулеўшчынская аперацыя 1943, Плешчаніцкая аперацыя 1943,* Вецслабадскі, Докшыцкі, Дамачоўскія, Клічаўскія, Лядскі, Пашкоўскі, Прыганінскі, Расонскі, Хаценчыцкі і інш. баі 1942—43 (гл. адпаведныя артыкулы). Паводле няпоўных звестак партызаны Беларусі ў баявым узаемадзеянні з партыз. фарміраваннямі Калінінскай, Смаленскай абл. РСФСР, Літвы, Латвіі, Украіны ў 1941—44 зрабілі каля 1,5 тыс. налётаў і разграмілі каля 1 тыс. гарнізонаў, шмат з якіх пасля разгрому не аднавілася. Разгром варожых гарнізонаў аказаў значную дапамогу сав. войскам у вызваленні Беларусі ад ням.-фаш. захопнікаў (гл. *Горвальская аперацыя 1943, Ельская аперацыя 1943* і інш.). Гл. таксама карту «Удары партызан па нямецка-фашысцкіх гарнізонах (1941—44 гг.)». *У. С. Пасэ.*

**ГАРНО́Ў** Цімафей Якаўлевіч (1916, в. Асіпова Лёзненскага р-на — 23.10.1944), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1942. З сак. 1942 на Паўн.-Зах. і 3-м Бел. франтах. Камандзір гарматы ст. сяржант Г. вызначыўся пры вызваленні Віцебскай вобл. і Літвы. У чэрв. 1944 у час прарыву абароны праціўніка і наступлення на левым беразе Нёмана разлік яго гарматы знішчыў назіральны пункт, 2 гарматы, 9 кулямётаў, 3 танкі, самаходную гармату, каля 80 гітлераўцаў; 17 жн. байцы разліку першымі фарсіравалі р. Шашупе, адбівалі контратакі праціўніка, чым забяспечылі пераправу сав. войск. Загінуў у баі. Пахаваны ў пас. Бабушкіна Несцераўскага р-на Калінінградскай вобл. На магіле помнік. Імем героя названы рыбалоўны траўлер на Балтыцы, яго імя прысвоена школе ў в. Асіпова, на яе будынку ўстаноўлена мемар. дошка.

**ГАРО́** Пётр Яўсеевіч (21.12.1910, в. Майск Крупскага р-на — 30.11. 1983), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1937. З 1928 на сав. рабоце. З 1933 у Чырв. Арміі. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі (1939). У чэрв. 1941 удзельнік абароны Гродна. У партызанах з жн. 1941: камандзір групы, палітрук роты, камісар атрада, у сак.— снеж. 1943 *партызанскай брыгады 61-й,* у снеж. 1943— ліп. 1944 *партызанскага атрада 200-га.* У 1946—70 на сав. і парт. рабоце.

**ГАРО́ШАК** Павел Антонавіч (н. 10.6. 1925, в. Нованікалаеўка Фёдараўскага р-на Башкірскай АССР), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1947. Беларус. Скончыў пяхотнае (1943) і танк. (1945) вучылішчы, Мінскі юрыдычны ін-т (1951). З 1943

## УДАРЫ ПАРТЫЗАН ПА НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКІХ ГАРНІЗОНАХ (1941—44 гг.)




Аўтар У.С.Пасэ

на Варонежскім і 1-м Укр. франтах. Санітар радавы Г. вызначыўся ў вер. 1943 пры фарсіраванні Дняпра ў Кіеўскай вобл. 22.9.1943 у складзе перадавога атрада пераправіўся цераз раку і аказаў мед. дапамогу 26 салдатам і афіцэрам, вынес з поля бою 32 параненых і іх зброю. Да 1946 у Сав. Арміі.


П. А. Гарошак.


Р. С. Гарфункін.


З. С. Гарэлік.


С. А. Гарэлік.


М. Ф. Гастэла.


П. М. Гаўрылаў

**ГАРФУ́НКІН** Рыгор Саламонавіч (6.8. 1920, г. п. Янавічы Віцебскага р-на — 22.9.1943), Герой Сав. Саюза (1944). З вер. 1941 на Паўн.-Зах., Варонежскім франтах. Удзельнік абароны Ленінграда, вызвалення Украіны. Разведчык танкавай брыгады радавы Г. вызначыўся ў баі за Дняпро на Кіеўшчыне. 22.9.1943 група разведчыкаў з 6 чал., у якой быў Г., пераправілася цераз раку каля в. Яшнікі Пераяслаў-Хмяльніцкага р-на, пранікла ў размяшчэнне праціўніка, выявіла сістэму абароны і агнявыя сродкі ворага. Вяртаючыся, Г. прыкрыў пераправу разведчыкаў, загінуў, пераплываючы Дняпро. Яго імем названы вуліцы ў Віцебску і г. п. Янавічы. У Віцебску на будынку гал. корпуса прыборабудаўнічага з-да ўстаноўлена мемар. дошка.

**ГАРЭ́ЛАЯ Я́МА,** вёска на тэр. Расонскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на Пн ад в. Канашонкі Гарбачэўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыў 101 чал. 12.2.1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»*, фашысты загубілі 25 жыхароў, вёску (22 двары) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1965 на магіле ахвяр фашызму ўстаноўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ГАРЭ́ЛІК** Зіновій Самуілавіч (19.11. 1904, г. Асіповічы — 14.12.1968), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1927. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Сімферопальскі камвуз (1924), курсы ўдасканалення камсаставу (1940), курсы «Выстрал» (1943). З чэрв. 1941 на Паўд., Сталінградскім, Цэнтр. франтах. Камандзір стралк. роты Г. вызначыўся 16.10.1943 пры вызваленні Лоеўскага р-на. Дэсантная група пад яго камандаваннем першая фарсіравала Дняпро, вызваліла в. Шчытцы, захапіла гармату, 2 кулямёты; да 18 кастр. заняла ўмацаваны рубеж, перарэзала важную магістраль праціўніка, падбіла 2 танкі. Яго імем названа вуліца у г. Асіповічы.

**ГАРЭ́ЛІК** Саламон Аронавіч (7.7.1913, Бабруйск — 22.10.1941), Герой Сав. Саюза (1941). Чл. КПСС з 1941. У Чырв. Арміі з 1932. Скончыў Ленінградскую школу авіяцыйных тэхнікаў (1932). Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну з чэрв. 1941 на Паўд.-Зах. фронце, пам. камандзіра роты танк. палка, ваентэхнік 1-га рангу. Пад варожым агнём рамантаваў падбітыя танкі, удзельнічаў у баях як камандзір танка. 22.10.1941 у баі пад Белгарадам танк, якім камандаваў Г., быў падбіты і загарэўся. Экіпаж не пакінуў машыны і змагаўся да апошняй хвіліны жыцця. Пахаваны ў Белгарадзе, там яго імем названа вуліца.

**ГАСТЭ́ЛА** Мікалай Францавіч (6.5. 1907, Масква — 26.6.1941), Герой Сав. Саюза (1941). Яго бацька — ураджэнец Беларусі. Чл. КПСС з 1928. У Чырв. Арміі з 1932. Скончыў Луганскую ваен. школу лётчыкаў (1933). Удзельнік баёў на р. Халхін-Гол у 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. У пач. Айч. вайны капітан Г. камандаваў эскадрылляй. З 22.6.1941 удзельнічаў у бамбардзіроўцы танк. і механізаваных калон праціўніка. Першы варожы самалёт збіў 24.6.1941 з зямлі з кулямёта свайго бамбардзіроўшчыка. 26.6.1941 у час бамбардзіроўкі варожай танк. калоны на дарозе Маладзечна — Радашковічы з членамі экіпажа лейтэнантамі штурманам А. А. Бурдзенюком, стралком Р. М. Скарабагатым і стралком-радыстам ст. сяржантам А. А. Калініным накіраваў ахоплены полымем самалёт на скопішча варожых танкаў, аўтамашын, бензацыстэрнаў, нанёс праціўніку вял. страты. Імем героя былі названы на Беларусі партыз. брыгада і 9 атрадаў, яно навечна занесена ў спісы авіяпалка. На месцы подзвігу, на шашы Мінск — Вільнюс, помнік-мемарыял экіпажу, у г. п. Радашковічы, у гарадах Мурам і Сухумі, а таксама на радзіме бацькі (Карэліцкі р-н) і на тэр. Варашылаўградскага вышэйшага авіяцыйнага вучылішча штурманаў пастаўлены помнікі Г., на будынку школы № 370 Масквы, у якой ён вучыўся — мемар. дошка. Яго імем названы калгасы і саўгасы, заводы, фабрыка, акіянскае судна, сухагруз, цеплаход, шахта, плошча, вуліцы, школы на Беларусі, у РСФСР, Казахстане, пасёлкі ў Сахалінскай і Магаданскай абл. Члены экіпажа пасмяротна ўзнаг. ордэнамі Айч. вайны I ступені.

**ГАСЦІЛО́ВІЧ** Антон Іосіфавіч (7.11. 1909, б. фальварак Пенькаўшчына Ашмянскі р-н — 23.11.1975), ген.-палк. (1959), доктар ваен. навук (1957). Чл. КПСС з 1919. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў ваен. акадэміі імя Фрунзе (1931), Генштаба (1938). У Айч. вайну нач. штаба, камандуючы арміяй Забайкальскага фронту, з ліст. 1943 камандзір корпуса, камандуючы арміяй на 1-м і 4-м Укр. франтах. Удзельнік Корсунь-Шаўчэнкаўскай аперацыі, баёў у Карпатах, вызвалення Польшчы, Чэхаславакіі. Да 1965 на адказных пасадах у Сав. Арміі.

**ГАЎРЫ́ЛАЎ** Пётр Міхайлавіч (30.6. 1900, в. Альведзіна Пестрачынскага р-на Татарскай АССР — 26.1.1979), адзін з кіраўнікоў *Брэсцкай крэпасці абароны 1941,* Герой Сав. Саюза (1957). Чл. КПСС з 1922. У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз., сав.-фінл. 1939—40 войнаў. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1939). У перыяд Айч. вайны камандзір 44-га палка 42-й стралк. дывізіі маёр Г. узначальваў абарону Усх. форта Брэсцкай крэпасці. 23.7.1941 цяжка паранены трапіў у палон, вызвалены сав. войскамі ў маі 1945. Дэп. ВС СССР у 1958—62. Ганаровы грамадзянін Брэста. Пахаваны ў Брэсце на гарнізонных могілках, на магіле помнік. Яго імем названы вуліцы ў Брэсце, Краснадары, Пестрацах, цеплаход Кубанскага рачнога параходства, калгас у Краснадары.

**ГАЎРЫ́ЛЕНКА** Фёдар Нічыпаравіч

(15.2.1906, в. Касцюкоўка Гомельскага р-на — 16.3.1986), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віленскай вобл. Чл. КПСС з 1929. З 1929 на сав. і адм. рабоце. З жн. 1941 у тыле ворага, выконваў спец. заданні. З ліп. 1943 у партызанах: з жн. 1943 камісар атрада, у крас.— ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады імя М. І. Калініна,* аднačасова ў жн. 1943 — ліп. 1944 1-ы сакратар Міёрскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—67 на парт., сав. і гасп. рабоце.

**ГАЎРЫЛЕНКІ,** вёска на тэр. Полацкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася ў Юравіцкім сельсавеце. Перад вайной у ёй жылі 23 чал. У 1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 13 жыхароў, вёску (6 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ГВАЗДО́ВА,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на ПдЗ ад в. Рудня Дзёрнавіцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жылі 82 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»,* фашысты загубілі 51 жыхара, вёску (22 двары) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ГВА́РДЫЯ САВЕ́ЦКАЯ,** часці, караблі, злучэнні і аб'яднанні Узброеных Сіл СССР, якім нададзены найменні гвардзейскіх за выдатныя баявыя заслугі перад Радзімай, масавы гераізм, мужнасць і высокае воінскае майстэрства, праяўленыя ў баях у Вял. Айч. вайну, а таксама часці рэактыўнай артылерыі. Г. с. нарадзілася ў 1941 у жорсткіх абарончых баях на Беларусі і Смаленшчыне. Першымі гэта найменне атрымалі ў адпаведнасці з рашэннем Стаўкі ВГК загадам Наркома абароны СССР ад 18.9.1941: 100-я (ген.-маёр І. М. *Русіянаў*), 127 (палк. А. З. Акіменка), 153 (палк. М. А. *Гаген*), 161-я (палк. П. Ф. Масквіцін) стралк. дывізіі, якія сталі адпаведна 1-й, 2, 3, 4-й гвардз. стралк. дывізіямі. 26.9.1941 64-я стралк. дывізія (палк. С. І. *Іаўлеў*, А. С. Гразноў) стала 7-й гвардзейскай. 64-я, 100-я і 161-я стралк. дывізіі ўдзельнічалі ў *Мінска абароне 1941.* У ліку першых гвардз. сталі злучэнні пад камандаваннем ураджэнцаў Беларусі: 1-я Маскоўская мотастралк. дывізія А. І. Лізюкова [(гл. ў арт. *Лізюковы)* з 21.9.1941—1-я Маскоўская гвардз. мотастралк. дывізія], 3-і кав. корпус ген.-маёра Л. М. *Даватара* (з 26.11. 1941 2-і гвардз. кав. корпус) і інш. Сярод аб'яднанняў і злучэнняў, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Беларусі ад ням.-фаш. захопнікаў, змагаліся гвардзейскія 4 агульнавайсковыя і 1 танк. арміі, 26 карпусоў, 80 дывізій, сотні брыгад і часцей розных родаў войск.

Гвардзейскім часцям, злучэнням і аб'яднанням уручаліся гвардз. сцягі, караблям — флагі, воінам-гвардзейцам — нагрудны знак «Гвардыя», гвардзейцам ВМФ — прамавугольная пласцінка з муаравай стужкай аранжавага колеру з чорнымі падоўжнымі палосамі. Былі ўведзены гвардз. воінскія званні (гвардыі радавы, гвардыі сяржант і інш.). Гвардзейцы служылі прыкладам адданасці сацыялісг. Радзіме, волі да перамогі, храбрасці, стойкасці.

Усяго за гады вайны звання гвардзейскіх удастоены: 11 агульнавайсковых і 6 танк. армій; 1 коннамеханізаваная група; 40 стралк., 7 кавалерыйскіх, 12 танк., 9 механіз. і 14 авіяцыйных карпусоў; 117 стралк., 9 паветрана-дэсантных, 17 кавалерыйскіх, 6 арт., 7 рэактыўнай артылерыі, 6 зенітна-арт. і 53 авіяцыйныя дывізіі; 13 мотастралк., 3 паветрана-дэсантныя, 66 танк., 28 механіз., 3 самаходна-арт., 64 арт., 1 мінамётная, 11 знішчальна-процітанк., 40 рэактыўнай артылерыі, 6 інж. і 1 чыг. брыгада; 1 умацаваны раён, у ВМФ — 18 надводных, 16 падводных караблёў і вял. колькасць часцей розных родаў войск.

*А. С. Харэбін.*

**ГЕ́ЛЬВІХ** Пётр Аўгуставіч (19.12.1873, Віцебск — 7.5.1958), вучоны ў галіне балістыкі і тэорыі стральбы артылерыі, ген.-маёр артылерыі (1940), доктар тэхн. навук (1938), прафесар (1935). У арміі з 1892. Скончыў Міхайлаўскую арт. акадэмію (1903). У 1918 у званні палкоўніка добраахвотна ўступіў у Чырв. Армію. Да 1943 у Ваен. акадэміі імя Дзяржынскага, ст. выкладчык. У 1943—53 у Гал. арт. упраўленні Чырв. Арміі — пастаянны чл. арт. к-та. Стварыў фундаментальныя творы, якія залажылі аснову сав. школы стральбы артылерыі. Дзярж. прэмія СССР 1941.

**ГЕ́ЛЬМАН** Паліна Уладзіміраўна (н. 24.10.1919, г. Бярдзічаў), Герой Сав. Саюза (1946). Канд. эканамічных навук (1970), дацэнт (1973). Чл. КПСС з 1942. Скончыла Ваен. ін-т замежных моў (1951). З 1920 жыла ў Гомелі. З мая 1942 на Паўд., Паўн.-Каўказскім, у Асобнай Прыморскай арміі, на 4-м Укр. і 2-м Бел. франтах: штурман, нач. сувязі эскадрыллі 46-га гвардз. Таманскага авіяпалка начных бамбардзіроўшчыкаў, ст. лейтэнант. Удзельніца абароны Каўказа, вызвалення Кубані, Таманскага паўвострава, Крыма, Беларусі, Польшчы, баёў у Германіі. Зрабіла 860 баявых вылетаў на бамбардзіроўку пераправаў, складоў, аэрадромаў, жывой сілы і баявой тэхнікі праціўніка. Да 1957 у Сав. Арміі, маёр. Працуе ў Ін-це грамадскіх навук пры ЦК КПСС.

**ГЕНАЦЫ́Д** (ад грэч. gēnos — род, племя і лац. caedo — забіваю), знішчэнне асобных груп насельніцтва па расавых, нацыянальных, этнічных, палітычных або рэлігійных матывах, а таксама наўмыснае стварэнне жыццёвых умоў, разлічаных на поўнае ці частковае фізічнае знішчэнне гэтых груп, аднолькава як і меры па папярэджванню дзетанараджэння ў іх асяроддзі; адно з найцяжэйшых злачынстваў супраць чалавецтва. Арганічна звязаны з фашызмам, расізмам і аналагічнымі рэакцыйнымі тэорыямі, якія прапагандуюць расавую і нац. выключнасць, нянавісць і нецярпімасць, панаванне т. зв. «вышэйшых» рас над «ніжэйшымі» і г. д. Паняцце Г.— пагалоўнага вынішчэння цэлых народаў — як катэгорыя міжнар. права ўвайшло ва ўжытак пасля 2-й сусв. вайны. Аднак яго вытокі ў далёкім мінулым. У масавых маштабах злачынствы Г. гітлераўцы ўчынялі ў 2-ю сусв. вайну ў акупіраваных краінах Еўропы, асабліва супраць славянскага (рускіх, украінцаў, беларусаў, чэхаў, палякаў) і яўрэйскага насельніцтва. Мільёны людзей розных нацыянальнасцей знішчаны гітлераўцамі ў лагерах смерці, турмах, у час карных аперацый і інш. У адпаведнасці з генеральным планам *«Ост»* фашысты прадугледжвалі знішчыць на тэр. СССР і Польшчы 120—140 млн. чал. За гады акупацыі на тэр. СССР фашысты знішчылі ў лагерах смерці 11 млн. чал. На акупіраванай тэр. Беларусі фашыстамі было створана больш за 260 лагераў смерці, за 3 гады акупацыі яны знішчылі больш як 2 млн. 200 тыс. сав. грамадзян (гл. *Акупацыйны рэжым, Карныя аперацыі, Лагеры смерці).* Выкрыццё на *Нюрнбергскім працэсе* 1945—46 жудасных злачынстваў гітлераўцаў паслужыла штуршком да прыняцця міжнар.-прававых актаў, накіраваных на барацьбу з Г. Генеральная Асамблея ААН 11.12.1946 прыняла рэзалюцыю супраць Г., 9.12.1948 адобрыла канвенцыю «Аб папярэджанні злачынства генацыду і пакаранні за яго», якая ўстанаўлівае міжнар. крымінальную адказнасць асоб, вінаватых ва ўчыненні Г. На XX сесіі Генеральнай Асамблеі ААН 21.12.1965 прынята міжнар. канвенцыя аб ліквідацыі ўсіх форм расавай дыскрымінацыі, якая абавязвае дзяржавы папярэджваць, забараняць і выкараняць усе формы і віды расавай дыскрымінацыі, у т. л. Г. Кіруючыя колы шэрагу імперыяліст. дзяржаў груба парушаюць канвенцыі 1948 і 1965, праводзяць палітыку Г. як унутры сваіх краін, так і на падуладных ім тэр., накіроўваюць яе на барацьбу супраць нац.-вызв. руху.

*В. П. Раманоўскі.*

П. У. Гельман.



**ГЕНЕРА́ЛЬНЫ ПЛАН «ОСТ»,** гл. *«Ост».*

**«ГЕ́НРЫХ»** («Heinrich»), кодавая на-

аперацыю «Г.». Умелым манеўрам партызаны выйшлі з-пад удараў гітлераўцаў разам з часткай насельніцтва зоны. У выніку аперацыі 130 партызан загінула, каля 50 паранена. У раёне аперацыі і часткова ў глыбіні партыз. зоны фашысты загубілі 4280 сав. грамадзян, 654 чал. былі аддадзены на расправу паліцыі бяспекі і СД. Для ўгону на фаш. катаргу карнікі захапілі 20 944 чал., у т. л. 4173 дзяцей, поўнасцю рэквізавалі жывёлу, спалілі больш за 150 вёсак. У справаздачы кіраўніка карнай экспедыцыі гаварылася: «...да 6.8.1943 поўнасцю завершана эвакуацыя з раёна Ярэмічы — Старшчына — Карашчэты — Рудня — Пяршаі — Жартовічы — Паташня — Дзяляцічы — Купіск... населеныя пункты, сельскагаспадарчыя і інш. пабудовы спалены або знішчаны...». Садысты батальёна СС Дырлевангера, паліцэйскіх батальёнаў і групы СД гвалтавалі, а потым вешалі або расстрэльвалі дзяўчат і маладых жанчын, спальвалі вёскі разам з жыхарамі, у т. л. ў Валожынскім р-не вёскі Даўгулёўшчына, Доры (спалена ў царкве 146 чал.), Дубоўцы (45 чал.), Мішаны (43 чал.), Палубаўцы (21 чал.), Сярэдняе Сяло (70 чал.) і інш.

*У. С. Пасэ, І. П. Хаўратовіч.*

**ГЕРО́Й САВЕ́ЦКАГА САЮ́ЗА,** у СССР ганаровае званне, найвышэйшая ступень адзнакі за асабістыя ці калектыўныя заслугі перад дзяржавай, звязаныя са здзяйсненнем гераічнага подзвігу. Зацверджана пастановай ЦВК СССР ад 16.4.1934. Паводле палажэння ад 14.5.1973 прысвойваецца Прэзідыумам ВС СССР. Г. С. С. ўручаліся: найвышэйшая ўзнагарода СССР — ордэн Леніна, знак асаблівай адзнакі — медаль «Залатая Зорка» і Грамата Прэзідыума ВС СССР. Г. С. С., які здзейсніў гераічны подзвіг 2-і раз, узнаг. ордэнам Леніна і 2-м медалём «Залатая Зорка», на радзіме ўстанаўліваўся яго бронзавы бюст. Паводле пастановы Прэзідыума ВС СССР ад 22.8. 1988 пры паўторным узнагароджанні Г. С. С. ўручаецца 2-і ордэн Леніна, медаль «Залатая Зорка» 2-і раз не ўручаецца. Бронзавыя бюсты могуць устанаўлівацца пасля смерці Г. С. С., якія адначасова з'яўляюцца Героямі Сацыяліст. Працы, па хадайніцтву дзярж. органаў і грамадскіх арг-цый. Званне Г. С. С. прысвоена каля 12,7 тыс. чал., у т. л. 475 беларусам і ўраджэнцам Беларусі, з іх 443 воінам Вял. Айч. вайны. Гэтай узнагароды ўдастоены 88 удзельнікаў падполля і партыз. руху на Беларусі. Прозвішчы Г. С. С.— воінаў беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі, а таксама сыноў братніх народаў і замежных грамадзян, партызан і падпольшчыкаў, якія вызначыліся ў баях за Беларусь у Вял. Айч. вайну, увекавечаны ў мемарыяльнай зале Бел. дзярж. музея гісторыі Вял. Айч. вайны.

### ГЕРОІ САВЕЦКАГА САЮЗА, ЯКІЯ ВЫЗНАЧЫЛІСЯ Ў ГАДЫ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ.

**Чатыры разы Герой Савецкага Саюза**
Г. К. Жукаў — Маршал Сав. Саюза (1939, 1944, 1945, 1956).

**Тройчы Героі Савецкага Саюза**
І. М. Кажадуб — ген.-палк. авіяцыі (люты, жн. 1944,1945), А. І. Пакрышкін — маршал авіяцыі (май, жн. 1943, 1944).

**Двойчы Героі Савецкага Саюза — беларусы і ўраджэнцы Беларусі**

П. Я. Галавачоў — ген.-маёр авіяцыі (1943, 1945), І. І. Гусакоўскі — ген.-арміі (1944, 1945), С. Ф. Шутаў — палк. (студз., вер. 1944), І. І. Якубоўскі — Маршал Сав. Саюза (студз., вер. 1944).

**Двойчы Героі Савецкага Саюза — сыны братніх народаў, якія вызначыліся ў баях за Беларусь**

С. Амет-Хан (1943, 1945), І. Х. Баграмян (1944, 1977), А. Я. Баравых (1943, 1945), П. І. Батаў (1943, 1945), А. П. Белабародаў (1944, 1945), А. Я. Брандыс (люты, чэрв. 1945), Л. І. Бяда (1944, 1945), А. І. Вараб'ёў (1944, 1945), А. М. Васілеўскі (1944, 1945), М. Г. Гараеў (люты, крас. 1945), М. І. Крылоў (крас., вер. 1945), Я. М. Кунгурцаў (люты, крас. 1945), А. К. Нядбайла (крас., чэрв. 1945), І. Ф. Паўлаў (1944, 1945), І. А. Пліеў (1944, 1945), К. К. Ракасоўскі (1944, 1945), Я. Я. Савіцкі (1944, 1945), С. П. Супрун (1940, 1941), М. Ц. Сцепанішчаў (1944, 1945), М. І. Сямейка (крас., чэрв. 1945), П. А. Таран (1942, 1944), Я. П. Фёдараў (1940, 1945), Ц. Ц. Хрукін (1939, 1945), І. Д. Чарняхоўскі (1943, 1944), А. М. Яфімаў (1944, 1945), В. С. Яфрэмаў (май, жн. 1943).

**Героі Савецкага Саюза — беларусы і ўраджэнцы Беларусі**

**1941.** А. К. Антоненка, Ц. П. Бумажкоў, С. А. Гарэлік, М. Ф. Гастэла, Л. М. Даватар, І. А. Каўшараў, А. І. Лізюкоў, Л. З. Муравіцкі, К. Н. Осіпаў, Б. Л. Хігрын.

**1942.** М. В. Аўдзееў, В. І. Казлоў, М. А. Карначонак, В. П. Карповіч, У. Ц. Курыленка, Ф. А. Мінкевіч, Г. А. Палаўчэня, М. Ф. Сільніцкі, Ф. А. Смалячкоў, М. Дз. Шастакоў.

**1943.** М. І. Абрамчук, І. А. Авекаў, С. І. Азараў, П. А. Акуцыёнак, І. Е. Аляксееў, М. М. Антонаў, К. П. Арлоўскі, Дз. Я. Аскаленка, Р. Б. Багданаў, І. М. Багушэвіч, М. С. Байкоў, Р. М. Баталаў, А. А. Белы, Я. А. Бірбраер, Ф. П. Бруй, А. М. Бурак, Л. У. Буткевіч, А. Я. Варанчук, А. А. Вашкевіч, З. Д. Віхнін, А. А. Волах, Г. І. Вялічка, А. К. Гаравец, П. А. Гарошак, З. С. Гарэлік, С. Ш. Гурэвіч, М. П. Давідовіч, П. Л. Даўбешкін, Ф. Ф. Дуброўскі, П. І. Жданаў, Н. І. Жолудзеў, С. А. Забагонскі, М. І. Зіньковіч, Я. І. Злацін, Г. П. Ісакаў, С. М. Каданчык, П. К. Казакевіч, М. М. Казачэнка, П. М. Казлоў, У. А. Канаваленка, І. Р. Карасёў, В. А. Князеў, І. С. Козіч, Б. І. Коўзан, А. І. Крайко, І. А. Крумінь, У. Е. Лабанок, А. Р. Мазанік, Ф. Я. Макавецкі, М. І. Марозаў, В. Ф. Марцехаў, І. В. Мацкевіч, А. І. Мельнікаў, Дз. М. Мінчугоў, М. М. Мядзель, М. К. Навумчык, П. У. Несцяровіч, Ц. П. Новікаў, М. Б. Осіпава, М. К. Піліпенка, П. А. Пілютаў, А. Я. Пісарэнка, Б. Т. Пішчыкевіч, М. Ф. Рабчэўскі, А. І. Радкевіч, П. М. Рудкін, І. Е. Самбук, А. Ф. Самусёў, І. В. Свідзінскі, У. І. Свідзінскі, М. І. Семянцоў, М. Д. Сіянін, А. Я. Смалякоў, І. П. Собалеў, М. Л. Співак, М. І. Сталяроў, П. А. Странакоў, П. Ф. Сычэнка, І. Я. Сяржантаў, Г. С. Таміloўскі, Н. В. Траян, А. І. Уласавец, І. А. Уласенка, В. Я. Фурсаў, Б. А. Царыкаў, Я. М. Целяшоў, В. І. Цямчук, С. М. Чарапнёў, К. П. Чарноў, Б. Т. Шабан, Я. А. Юрчанка, П. І. Ярмоленка.

**1944.** К. А. Абазоўскі, А. С. Азончык, С. П. Алейнікаў, Ц. Д. Алексяйчук, У. Ц. Алісейка, М. І. Альхоўскі, А. А. Аляхновіч, С. Ф. Аляшкевіч, М. А. Ананьеў, П. І. Аўрамкаў, С. А. Бабрук, У. А. Барысенка, А. А. Барэйка, П. М. Бахараў, І. А. Бельскі, А. К. Колбас, А. М. Бондараў, П. М. Буйко, П. М. Бухонка, Е. С. Бялявін, І. Ф. Ваксман, А. І. Валынец, І. К. Вальваценка, І. К. Варапаеў, М. А. Высагорац, А. К. Габрусёў, Р. С. Гарфункін, В. М. Гінтаўт, К. П. Грыб, П. Л. Грышчанка, Р. А. Гусараў, А. П. Даніліцкі, Л. В. Дземянкоў, І. М. Ерашоў, П. Е. Жгіроў, Дз. П. Жмуроўскі, У. Г. Завадскі, І. К. Захараў, А. Л. Ісачанка, М. Р. Кавалёў, П. І. Кавалёў, А. В. Казлоў, М. К. Казлоўскі, І. Е. Каленікаў, В. М. Калеснікаў, С. М. Канашэнка, І. Дз. Кандрацьеў, М. П. Каралёў, С. А. Карнач, А. П. Карпенка, І. Б. Катунін, А. Я. Кляшчоў, І. П. Кожар, П. Ю. Корбут, В. З. Корж, А. Р. Корзун, Ф. П. Котчанка, Я. І. Красуцкі, М. К. Круглікаў, І. І. Крукаў, С. Д. Крэмер, А. М. Кулагін, Ф. Я. Кухараў, І. А. Лапянкоў, Э. В. Лаўрыновіч, І. С. Леановіч, Дз. І. Лугаўской, М. П. Лугоўскі, А. С. Лукашэвіч, А. П. Луцэвіч, А. Б. Ляшчынскі, Ф. А. Малышаў, С. С. Манковіч, В. П. Маргелаў, У. Р. Масальскі, Г. І. Маслоўская, А. Дз. Мацюшоў, Р. Н. Мачульскі, П. М. Машэраў, Я. К. Мінін, Я. І. Міркоўскі, М. М. Мультан, М. В. Мураўёў, Г. М. Надтачэеў, У. А. Парахневіч, А. В. Пструшэўскі, А. З. Петушкоў, А. С. Петушкоў, А. М. Рабцэвіч, П. М. Раманаў, М. В. Рамашка, А. Д. Салянікаў, І. І. Семянюк, С. І. Сікорскі, У. А. Скугар, А. І. Сліц, Я. Р. Слонскі, М. А. Старавойтаў, І. І. Строчка, Дз. Г. Сухавараў, С. Я. Сцяпук, Ц. Я. Сычкоў, Ц. Р. Сяньскоў, М. М. Тамашэвіч, І. Г. Тамашэўскі, В. І. Тарлоўскі, А. Р. Таўпека, М. М. Ткачэнка, В. А. Тумар, І. М. Туфтаў, Р. А. Худалееў, У. З. Царук, А. М. Цюльга, М. Л. Часнык, С. І. Чубукоў, К. А. Шабан, М. П. Шмыроў, П. І. Шпетны, М. К. Шут, А. Г. Юхнавец, П. У. Ялугін, У. І. Ярмак, В. І. Яронька.

**1945.** Я. А. Аляхновіч, С. П. Анішчанка, Ф. К. Анташкевіч, К. І. Арлоўскі, Ф. Ф. Архіпенка, Ф. А. Асташэнка, С. Н. Багарад, А. І. Банкузаў, М. У. Барташоў, М. У. Барысаў, А. І. Барычэўскі, П. Х. Басянкоў, М. Р. Батракоў, І. С. Бескін, П. М. Буйневіч, І. Р. Бумагін, А. К. Бурак, Ф. М. Бялевіч, Дз. В. Бярнацкі, М. Р. Вайнруб, Я. Р. Вайнруб, А. В. Вакульскі, П. Ф. Ванеецкі, А. Н. Баранцоў, І. П. Гаманкоў, М. І. Гапяёнак, Ц. Я. Гарноў, П. А. Глазуноў, М. Ф. Грыгаровіч, А. І. Гурын, П. І. Гучок, Е. У. Дабравольскі, Л. С. Данілюк, А. Ф. Дзюбко, І. І. Дзякаў, В. А. Дзямідаў, П. А. Дудчык, А. М. Дулеба, В. І. Ерашэнка, А. А. Жук, П. С. Жукаў, Ц. С. Жучкоў, У. Р. Жыгуноў, І. С. Зайцаў, М. Я. Зайцаў, Г. С. Здановіч, К. М. Зубовіч,

В. К. Зыль, А. Я. Каваленка, С. А. Каваленка, М. К. Кавалёў, Р. С. Кавалёў, Д. В. Казакевіч, А. Я. Казлоў, І. І. Казлоўскі, В. Ф. Каленнікаў, С. А. Каліноўскі, І. І. Камінскі, Л. М. Каплан, М. Дз. Капусцін, П. М. Каралёў, С. Дз. Карыцкі, П. В. Касцючык, М. П. Катлавец, Я. І. Качанаў, В. А. Квіцінскі, У. М. Кірмановіч, М. А. Кісляк, М. М. Кольчак, М. Дз. Кананаў, Л. С. Корнеў, В. А. Кот, І. М. Краснік, С. А. Красоўскі, А. Ц. Краўцоў, П. А. Крыванос, А. А. Кубліцкі, П. І. Купрыянаў, М. І. Кучынскі, С. А. Лавянецкі, І. І. Ладуцька, А. І. Лапацін, М. А. Ласкуноў, У. С. Лаўрыновіч, П. І. Лізюкоў, А. Я. Ліпуноў, М. В. Луста, З. Р. Лышчэня, П. В. Мажэйка, І. Ц. Майсееў, Б. А. Майстрэнка, І. А. Макіёнак, І. В. Максімча, Дз. К. Марозаў, У. М. Марцінкевіч, Я. Р. Маскаленка, С. С. Мацапура, М. П. Мебш, А. А. Мінін, Я. А. Мойзых, В. П. Мухін, Я. Г. Навіцкі, У. А. Наржымскі, Дз. С. Наруцкі, І. Б. Непачаловіч, І. Ф. Несцераў, М. А. Неўскі, П. П. Нікіфараў, Ф. П. Нікіцін, А. В. Паддавашкін, М. Г. Падсаднік, С. А. Панамароў, А. А. Парцянка, І. М. Паўлаў, І. М. Паўловіч, М. П. Пацееў, Ц. А. Пачтароў, С. А. Пашкевіч, Дз. Н. Пенязькоў, Ф. І. Перхаровіч, А. М. Пінчук, М. Р. Пінчук, Г. І. Пісараў, К. М. Полазаў, П. П. Пурын (Пурынь), С. С. Пустэльнікаў, С. Ф. Пшонны, А. Ф. Пятаковіч, М. Я. Рабцаў, М. Я. Раманькоў, Ф. Ф. Раўчакоў, М. С. Рогаў, У. А. Рыбак, У. Р. Рыжоў, Ц. А. Саевіч, В. Д. Сакалоўскі, А. І. Салодышаў, С. А. Свідзерскі, П. С. Сінчукоў, В. В. Скрыганаў, М. І. Смарчкоў, М. К. Спірыдзенка, Г. М. Станкевіч, М. П. Судзілоўскі, М. А. Сурын, Я. Я. Сусько, М. П. Сыдзько, М. Ф. Талкачоў, П. Ф. Тоўсцікаў, П. С. Труханаў, Ф. А. Угначоў, Я. І. Фаміных, А. А. Філімонаў, М. А. Халяўка, А. К. Харчанка, А. С. Хмялеўскі, М. В. Хоцімскі, А. Дз. Церашкоў, Дз. М. Цырубін, А. І. Чарныш, Л. С. Чэркас, А. Дз. Шамянкоў, М. П. Шарко, А. К. Шмыгун, М. Д. Шыла, В. П. Юбкін, І. І. Янушкоўскі, У. Р. Яўсеенка.

**1946.** М. І. Аверчанка, Ф. М. Аўхачоў, М. С. Быкаў, Я. В. Васілеўскі, Я. І. Ганчароў, П. У. Гельман, С. І. Жукаў, М. М. Зялёнкін, М. С. Камельчык, У. Р. Карачун, Р. В. Ксяндзоў, А. А. Лузгін, А. С. Мілюцін, К. Ф. Міхаленка, І. С. Нікалаеў, А. А. Нячаеў, А. С. Пешчанка, А. К. Стампкоўская, У. А. Тышэвіч, Ю. А. Шандалаў, М. Ф. Шындзікаў. А. К. Шэлепень.

**1948.** Л. І. Гараглял, П. М. Стафаноўскі.

**1957.** З. М. Тусналобава-Марчанка.

**1958.** Е. С. Зянькова, З. М. Партнова.

**1960.** В. З. Харужая.

**1965.** Ц. С. Барадзін, П. А. Галецкі, В. І. Драздовіч, І. К. Кабушкін, М. І. Казей, М. А. Кедышка, Л. Дз. Лорчанка, Л. Я. Маневіч, Т. С. Марыненка, Г. М. Халасцякоў, У. А. Хамчаноўскі, Р. І. Шалушкоў.

**1978.** Р. У. Дольнікаў.

**Героі Савецкага Саюза — сыны братніх народаў, замежныя грамадзяне, якія вызначыліся ў баях за Беларусь**

**1941.** К. Я. Анохін, Ф. А. Баталаў, Я. Дз. Бяляеў, М. М. Дзмітрыеў, І. А. Кадучэнка, У. Р. Каменшчыкаў, Я. Р. Крэйзер, Ф. І. Паўлоўскі, С. Р. Рыдны, М. М. Чапурной.

**1942.** С. А. Асямаў, В. Я. Сітноў.

**1943.** М. І. Агароднікаў, Х. Ш. Агліулін, Д. Азізаў, А. Алімбетаў, Р. А. Аляксееў, М. М. Андрэйка, П. Я. Анішчанкаў, Б. С. Антаеў, В. П. Антонаў, Я. А. Антонаў, М. Р. Апарын, С. В. Артамонаў, М. М. Арцем'еў, К. Аўхадзіеў, Р. Е. Бабкоў, Дз. А. Бакураў, Б. Ф. Баннікаў, М. С. Барысаў, Г. І. Басманаў, І. А. Бахмецьеў, І. А. Бачанкоў, П. К. Баюк, Ц. А. Баярынцаў, В. Дз. Белазерцаў, У. К. Беламесных, В. А. Бердышаў, А. Л. Бондараў, Ц. І. Брагонін, А. І. Бруханаў, І. М. Будзілін, Г. Дз. Буднік, М. В. Бузінаў, В. В. Бутылкін, А. В. Быкаў, М. В. Бычкоў, В. М. Бясцэнны, А. П. Валошын, К. Р. Верцякоў, Ф. П. Віслеўскі, М. Л. Воінаў, С. А. Волікаў, Е. Дз. Волкаў, У. Высоцкі, Дз. (М.) Г. Гайнутдзінаў, А. М. Гарбуноў, Г. Дз. Гардаполаў, І. М. Гардзіенка, Х. Г. Гізатулін, В. В. Глаголеў. А. Я. Гнусараў, І. М. Грачоў, С. У. Грышын, А. М. Губін, П. М. Гудзь, П. Я. Гур'янаў, У. В. Гусеў, Ф. М. Давыдаў, А. В. Дамрачоў, Б. Е. Даўлетаў, І. Т. Дацэнка, Т. Джумбаеў, М. Т. Дзёмін, Р. Я. Дзмітрыеў, І. М. Дзям'яненка, А. Ф. Дзячкоў, М. І. Дружынін, І. Х. Дубін, А. Дусухамбетаў, С. А. Елістратаў, Ф. А. Ермакоў, С. С. Жала, А. М. Жарыкаў, А. П. Жыдкіх, І. П. Зайцаў, І. Ф. Залатароў, У. М. Зарамбо, К. С. Заслонаў, А. Р. Звягін, І. Дз. Зуеў, І. Ф. Зуеў, Т. Ібрагімаў, І. І. Іваноў, І. С. Іваноў, І. В. Ільгачоў, С. П. Ільін, Б. Ісаханаў, Г. М. Іўлеў, К. Ф. Казакоў, М. Я. Казакоў, С. А. Казакоў, С. Д. Казанаў, А. А. Казаран, А. А. Казарэзаў, А. Г. Казлоў, Ф. М. Калакольцаў, Л. А. Калацілаў, Б. П. Калінін, А. С. Калмыкоў, І. М. Калодзій, А. І. Кальцоў, М. І. Кананенкаў, І. М. Карачараў, В. А. Карпенка, К. М. Карэлін, П. П. Карэлін, С. Касімхаджаеў, І. Р. Касяк, Т. Каумбаеў, І. А. Качурын, Дз. К. Квітовіч, А. Кжывань, М. І. Кікаш, М. Ф. Кліменка, С. І. Клімовіч, С. Т. Кляўцоў, І. М. Князеў, М. В. Красавін, І. П. Красільнікаў, Я. Я. Краўцоў, С. У. Крывенка, В. В. Крыклівы, Дз. Ф. Кудрын, І. А. Кузаўкоў, А. М. Кузняцоў, І. Ф. Кузняцоў, С. Н. Кузняцоў, І. З. Куляшоў, М. А. Куратнікаў, А. А. Куцін, С. І. Кязімаў, І. М. Лабанаў, А. А. Лазараў, А. Я. Ламакін, І. Г. Лапін, Л. С. Лапцеў, А. С. Лапшын, І. Ф. Лапшын, С. А. Ларыёнаў, У. Ф. Латышаў, П. М. Лашчанка, М. Ф. Лімань, Р. М. Ліпькоў, І. П. Лісін, М. М. Літвіненка, А. Е. Лук'янаў, Р. А. Лумпаў, Б. Р. Лунц, М. Ц. Лучок, І. Г. Лысанаў, І. І. Люднікаў, Н. А. Лявухін, І. С. Лямайкін, І. М. Ляусенка, Г. В. Ляхаў, І. М. Ляшэнка, В. М. Макараў, Р. П. Маланог, М. Е. Маліноўскі, М. І. Маргун, І. А. Мардасаў, А. В. Маркаў, В. В. Матасаў, І. М. Мацюгін, В. І. Мельнікаў, А. Е. Меншыкаў, П. М. Мешчаракоў, І. А. Міроненка, М. І. Міхайлаў, А. Е. Мішчанка, М. У. Мялашчанка, Р. П. Мясаедаў, А. Г. Мяцяшкін, В. Дз. Нерыкаў, У. Ф. Несцераў, А. Р. Ніканаў, А. В. Новікаў, М. А. Новікаў, В. А. Някрасаў, А. М. Нямчынаў, А. Р. Огнеў, М. Дз. Ольчаў, А. А. Осіпаў, С. А. Папоў, П. А. Патапенка, М. А. Паўлоцкі, І. А. Пахалюк, П. М. Пахомаў, Б. А. Піскуноў, А. У. Посны, М. С. Пруднікаў, С. Дз. Пруткоў, Ц. Д. Пугачоў, К. А. Пуляеўскі, М. П. Пухаў, В. С. Пуцілін, З. Ф. Пянакі, І. М. Пяткоўскі, П. К. Рагозін, І. А. Радаеў, А. М. Радзько, М. К. Раманаў, С. П. Рашчупкін, А. А. Румянцаў, А. С. Румянцаў, І. М. Румянцаў, П. А. Рындзін, В. Р. Салдаценка, М. Е. Самохін, М. Я. Сарокін, Р. П. Саўчук, І. І. Сердзюкоў, В. Дз. Серыкаў, М. І. Сечкін, Л. С. Сібагатулін, А. В. Сідараў, М. М. Сілін, В. Я. Сітнікаў, Е. Сіхімаў, В. Н. Сласцін, М. Ф. Смірноў, М. Я. Смірноў, С. Р. Смірноў, А. Ф. Спірын, І. Я. Спіцын, М. І. Сташак, Ш. С. Сулейманаў, Дж. Сулейменаў, Б. М. Сураўцаў, Р. М. Суркоў, Г. І. Сурпін, І. Я. Сухараў, С. Я. Сухараў, Дз. П. Сухарнікаў, Ф. П. Сушкоў, А. І. Сярожнікаў, П. Ц. Таранцаў, В. Ф. Тарасенка, К. Таскулаў, К. Я. Ткабладзе, В. І. Трусаў, А. В. Трыфанаў, Ф. А. Трыфанаў, М. І. Тузаў, А. І. Уладзіміраў, М. Дз. Уласаў, М. М. Уласаў, П. М. Фамічоў, Б. М. Фарунцаў, І. Д. Фіёнаў, М. В. Філімонаў, А. Р. Фралянкоў, В. С. Хабіеў, М. І. Харламаў, Ф. М. Хлуднеў, М. М. Хухлоў, А. П. Цаплін, А. С. Цвердахлебаў, М. К. Цімашэнка, У. Я. Цімашэнка, В. М. Цімонаў, В. Ф. Цітоў, К. А. Ціханаў, І. В. Цымбал, Ф. П. Чабурын, К. Е. Чакіраў, К. З. Чалоўскі, П. М. Чаракманаў, Я. Дз. Чарамноў, У. І. Чаркасаў, П. А. Чарняеў, П. А. Чудзінаў, Б. П. Шайко, С. Шакіраў, М. Р. Шаламцоў, М. С. Шанцоў, М. Ф. Шапачкін, М. Т. Шарстабітаў, У. П. Шарстнёў, І. К. Шаумян, В. В. Швец, Дз. В. Шурпенка, А. В. Шчарбакоў, В. В. Шчарбіна, А. Ф. Шчукін, М. П. Шыбаеў, Д. К. Шышкоў, М. А. Шэвелеў, Ш. Эргашаў, М. М. Юр'еў, І. А. Юсупаў, Ц. С. Ягораў, Г. Т. Якушкін, А. К. Ярохін, А. І. Яршоў, М. А. Яхагоеў.

**1944.** С. С. Абдужабараў, У. А. Абдураманаў, А. Н. Абрамаў, К. К. Абрамаў, М. Р. Абросімаў, А. Р. Абухаў, В. Ц. Абухаў, В. І. Аверчанка, А. І. Агафонаў, А. С. Агафонаў, К. Азалаў, А. М. Азерын, Р. Азімаў, Ф. Ф. Азміцель, І. К. Айтыкаў, В. І. Акімаў, М. П. Акімаў, Г. К. Акпераў, М. С. Актуганаў, М. В. Акцябрская, М. Я. Алавяннікаў, М. Альбер, А. В. Аляксандраў, В. І. Аляксандраў, М. А. Аляксандраў, І. П. Аляксееў, Я. А. Аляксееў, Х. Амінаў, К. М. Андрусенка, У. К. Андрушчанка, Я. Т. Андрушчанка, А. Дз. Андрэеў, М. М. Андрэеў, У. Ф. Анісаў, А. Аннаеў, Дз. А. Анохін, І. Ф. Анохін, А. А. Анпілаў, І. М. Антонаў, М. І. Антонаў, Я. Ф. Антошын, І. М. Анціпін, А. К. Апалеў, І. І. Арандарэнка, В. К. Ардашаў, Ц. М. Арлоў, І. Я. Арол, А. М. Арсянюк, М. А. Аруцюнян, М. В. Архангельскі, Д. Асаналіеў, В. С. Аскалепаў, П. А. Афанасьеў, С. Я. Афанасьеў, Ф. Т. Афанасьеў, Г. А. Ахмераў, К. Х. Ахметшын, Т. Бабаеў, К. М. Бабошка, В. М. Бабошын, С. А. Багамолаў, І. В. Багданаў, У. Р. Багуслаўскі, А. В. Бажанаў, М. Байрамаў, А. Г. Байцоў, А. І. Баксаў, І. П. Баладурын, Р. В. Баламуткін, І. М. Банаў, М. П. Баранаў, У. П. Баранаў, М. І. Баркоў, Н. Д. Баронін, Е. І. Барыкін, М. Б. Барысаў, І. А. Барысевіч, М. Г. Барышаў, М. І. Барэеў, Г. П. Бахвалаў, В. А. Башкіраў, Ф. А. Башкіраў, В. І. Баяркін, К. Ф. Белаконь, Г. М. Бзараў, С. Г. Біктыміраў, І. С. Бірукоў, А. І. Болатаў, І. К. Болдун, М. М. Броннікаў, А. П. Брынскі, С. Ц. Брэусаў. І. І. Бувін, І. А. Буканаў, Б. А. Булат, В. Г. Булатаў, Х. С. Булатаў, А. А. Бурнашоў, М. А. Бухтуеў, М. І. Быкоўскі, А. С. Бычак, Р. В. Бязуглаў, А. І. Бялоў, А. К. Бялоў, П. А. Бялоў, Р. А. Бялоў, А. І. Бяспятаў, А. Дз. Валогін, М. Я. Валошын, М. П. Варатынцаў, А. Ф. Варонін, В. А. Варонін, І. І. Варэпа, М. А. Васеў, С. І. Василенка, А. М. Васільеў, І. В. Васільеў, М. М. Васільеў, М. Ф. Васільеў, С. А. Ваўпшасаў, Р. І. Вахонін, У. К. Венцаў, Л. Л. Вінер,

П. Дз. Вінічэнка, Ю. М. Віннік, У. М. Вішнявецкі, А. П. Возлікаў, В. Ф. Волкаў, М. Ц. Волкаў, А. І. Воранаў, М. А. Вычужанін, В. А. Вядзенка, К. А. Вяршынін, М. Дз. Вяснін, Р. П. Вятчынкін, Ф. Г. Габдрашытаў, С. К. Гадавікоў, І. Я. Гайдым, А. С. Гайко, С. К. Галавашчанка, А. В. Галадноў, В. М. Галаулін, Б. Л. Галушкін, І. В. Ганжэла, Е. К. Гаранян, В. Ф. Гарачаў, І. П. Гарбуноў, А. С. Гардзееў, Ю. І. Гарохаў, Ш. Ю. Гатыятулін, П. П. Гаўрылаў, Ф. Г. Гаўрылаў, П. І. Гаўрыш, Я. І. Генералаў, П. М. Герасіменка, А. П. Гергель, І. В. Гермашаў, А. Г. Гізатулін, С. Я. Гладкоў, Ф. І. Говараў, Дз. Ф. Грачушкін, М. А. Грачыхін, А. І. Громаў, А. М. Громаў, І. К. Груздзеў, Л. А. Грыгаровіч, А. І. Грыгор'еў, Г. С. Грыгор'еў, Л. М. Грыгор'еў, Дз. А. Грыдзін, М. А. Грынёў, К. Д. Грыцынін, А. С. Грышын, С. С. Грэбчанка, А. І. Гуляеў, Дз. Ц. Гуляеў, С. І. Гурвіч, В. В. Гусеў, Ф. Л. Гушчын, А. Я. Давыдаў, Л. Ш. Давыдаў, М. Я. Дакучаеў, Р. А. Далгоў, А. Дз. Данілаў, П. А. Данілаў, Е. І. Данільянц, А. Ф. Данукалаў, М. С. Дароўскі, І. М. Дарохін, І. С. Даутаў, А. Г. Даўлетаў, Б. Даўлетджанаў, Б. Р. Даўлятаў, І. К. Двадненка, Э. Б. Джумагулаў, Я. А. Дзерцеў, М. А. Дзёмін, Б. М. Дзмітрыеў, П. А. Дзяльцоў, І. А. Дзяменцьеў, А. А. Дзямідаў, А. М. Дзянісаў, С. Р. Дрынь, А. Е. Дубікаў, А. Дэхканбаеў, П. В. Едзелеў, Р. П. Ерафееў, А. П. Еўдакімаў, В. В. Еўдакімаў, І. С. Еўсцігнееў, А. Жанзакаў, В. Р. Жолудзеў, С. Г. Жунін, А. І. Жылін, М. Ф. Забродзін, Я. Г. Заверталюк, І. А. Завулін, В. Ф. Загайнаў, Г. П. Загайнаў, М. М. Зазуля, Я. П. Зайцаў, А. З. Закіраў, А. А. Залатароў, В. В. Засядацелеў, Р. Дз. Заўгародні, К. Ф. Захараў, М. А. Звераў, В. Ф. Здуноў, У. К. Зелянёў, Я. Дз. Зімін, М. А. Зіноўеў, П. П. Зонаў, Р. М. Зубаў, А. М. Зуеў, Ю. М. Зыкаў, П. П. Зюбін, П. М. Зюлькоў, М. В. Зябніцкі, С. І. Зямлянаў, Ю. П. Іванкін, І. Я. Ігнаценка, С. І. Іларыёнаў, Г. А. Іназемцаў, І. В. Індракоў, В. Я. Ісаеў, А. І. Ісіпін, Дз. Д. Іўлеў, Ю. Дз. Іўліеў, І. М. Ішчанка, П. А. Кабанаў, І. Р. Кабякоў, Б. Я. Каваленка, П. І. Каваленка, П. С. Кавалёў, С. М. Кавалёў, А. І. Кадамцаў, І. П. Кадачнікаў, А. Л. Казачкоў, І. Ф. Казачук, М. Ф. Казлоў, А. І. Калабін, А. П. Каламоец, У. А. Калбуноў, Дж. Калдыкараеў, У. Р. Калеснік, І. С. Калеснікаў, А. Каліеў, Ц. І. Калінін, М. Дз. Калініч, М. Г. Калінкін, Ф. А. Калыхматаў, Дз. Я. Камароў, Ф. І. Каменеў, К. Л. Камынін, У. М. Камыцаў, М. С. Канавалаў, Ф. Ф. Канавалаў, А. І. Капарчык, Ф. І. Кангалёў, П. Я. Кандраценка, П. В. Канькоў, С. Л. Капытаў, І. В. Каралькоў, В. А. Карасёў, А. І. Караткоў, Д. Т. Каржоў, Я. Ф. Карнееў, У. В. Карпаў, І. М. Касатонаў, П. С. Кастрамцоў, У. М. Кастрыкін, С. П. Касцерын, М. М. Катаеў, І. П. Каўрыжка, Г. М. Каўтуноў, А. Г. Качаткоў, А. Р. Кашынцаў, А. С. Квіткоў, Ц. Кенжэбаеў, Ж. К. Кізатаў, Ц. П. Кіранкоў, А. В. Кірсанаў, І. В. Кірык, В. П. Кірычук, А. М. Кісліцын, П. М. Кіслоў, М. М. Кліменка, П. Ф. Клята, А. А. Князеў, І. М. Князькоў, А. Ф. Колесава, А. С. Конеў, В. І. Корнеў, С. Ф. Костычаў, І. І. Косцін, М. І. Котаў, В. Я. Коўтун, П. М. Коўтун, У. П. Краеў, М. А. Крапіва, А. В. Красікаў, М. П. Красільнікаў, І. Я. Краснік, М. П. Краўчанка, А. С. Крахмаль, А. М. Круташынскі, І. К. Кручкоў, П. Я. Крывень, А. М. Ксынкін, Г. І. Кубышка, І. І. Кувіка, Л. У. Кудакоўскі, Д. А. Кудравіцкі, М. Г. Кужакоў, М. Ц. Кузняцоў, А. П. Кузоўнікаў, М. Я. Кузякін, В. І. Кулікаў, М. Р. Кулябяеў, П. М. Куманёў, Дз. Р. Курапятнік, Я. Г. Курачкін, А. Курманаў, Т. Т. Кусімаў, Ф. М. Кустаў, М. І. Кучаравенка, М. М. Куюкаў, В. І. Лабанаў, А. П. Лабачоў, І. С. Лазарэнка, І. А. Лазенка, М. І. Лапата, П. Р. Лапацін, А. В. Лапік, П. С. Лапушкін, Р. Р. Лахін, М. С. Лацкоў, А. К. Леанцюк, В. М. Лебедзеў, Г. С. Лебедзеў, І. М. Лебядзенка, В. П. Лезін, А. Дз. Леўчанка, М. П. Лешчанка, В. І. Лівенцаў, А. Ц. Лінчук, І. Дз. Ліхабабін, А. С. Лічынка, А. Р. Логінаў, А. А. Лосік, М. Т. Лукінаў, П. Ф. Лунёў, Я. М. Лунін, М. Я. Лут, А. А. Лысенка, М. Дз. Любічаў, А. Г. Ляпкін, Х. Магамед-Мірзоеў, М. М. Магерамаў, П. С. Мазураў, М. М. Майсееў, М. С. Майсееў, Г. В. Майсурадзе, І. М. Макараў, М. І. Макарычаў, М. Р. Маладзікоў, Б. Г. Малышаў, І. Е. Малышаў, Дз. К. Малькоў, І. А. Мальцаў, В. А. Малясаў, Дз. Б. Мататаў, П. С. Мамкін, М. М. Мамраеў, Х. Мамутаў, М. Ф. Манакін, Я. Ф. Манахаў, М. К. Мандыбура, Ф. Р. Маркаў, С. С. Маркін, В. Я. Маркоўскі, М. Г. Мармулёў, І. А. Мартынаў, К. І. Марусічэнка, М. П. Маскаеў, А. П. Маслаў, М. В. Маслаў, А. Т. Маслікаў, І. Ф. Маслоўскі, Г. Г. Маслякоў, М. П. Масонаў, М. Т. Маструкоў, М. Ф. Махаў, П. Я. Махіня, Р. Махмудаў, А. Р. Махнёў, І. Р. Махота, І. Я. Мацвееў, П. К. Мацвееў, П. Я. Мацвееў, А. В. Мацюк, В. Я. Мацюшкін, П. М. Меншыкаў, Р. І. Мільнер, Т. Т. Міндыгулаў, П. А. Мірашнічэнка, Б. А. Міхайлаў, М. А. Міхайлашаў, В. П. Міхалько, А. М. Міхін, М. М. Мішэнін, І. М. Моцін, П. Ц. Мужэцкі, М. С. Музалёў, В. П. Мухін, Дз. М. Мядзведзеў, І. П. Мядзведзеў, Р. І. Мяншун, В. Н. Набіеў, М. І. Навасельцаў, К. І. Навумаў, М. П. Нагорны, А. П. Назараў, А. Г. Наканечнікаў, В. Л. Недагавораў, Д. П. Несцярэнка, М. А. Ніканаў, А. Ф. Нікіфараў, І. Я. Нікіфараў, Е. А. Нікуліна, Т. Ніязмамедаў, К. І. Новікаў, М. С. Новікаў, В. М. Няжноў, В. Л. Няклюдаў, Я. М. Няўмоеў, М. І. Осіпаў, У. П. Падзігун, С. У. Падлузскі, Г. Ф. Пакроўскі, М. П. Пакроўскі, В. В. Палавінкін, А. С. Паланскі, П. Ц. Панамароў, Дз. П. Паноў, Ф. К. Папоў, А. Р. Папугаеў, Н. М. Пархоменка, Ф. І. Паршын, І. А. Парыгін, А. П. Пасар, М. Дз. Паўлаў, М. М. Паўлаў, М. П. Паўлаў, М. С. Паўлаў, І. Дз. Паўленка, А. М. Паўлоўскі, Ф. К. Паўлоўскі, Г. Ф. Пацёмкін, І. С. Перахода, М. Дз. Петухоў, І. Ц. Петчанка, П. С. Півень, А. Н. Піразеў, В. Р. Пічугоў, Ц. Р. Плужнікаў, А. В. Плюшч, І. А. Плякін, Л. А. Праценка, В. І. Прохараў, П. А. Прымак, Г. А. Прыходзька, П. С. Прыходзька, Р. дэ ла Пуап, А. М. Пузікаў, Дз. П. Пяроў, М. А. Пярфільеў, І. М. Пятлюк, М. В. Радчанка, Р. М. Раеўскі, М. А. Ражноў, В. Дз. Разанаў, Г. С. Размадзе, Б. Дз. Раманаў, В. М. Раманаў, М. І. Раманюк, А. А. Раслякоў, Н. Р. Рафіеў, Ш. С. Рахматулін, А. П. Рудакоў, М. М. Рудзь, А. М. Рудой, М. М. Рудык, С. І. Рудэнка, Ф. С. Румянцаў, В. А. Русакоў, І. Ф. Русін, В. І. Русінаў, М. А. Рыжанкоў, А. А. Рыжкоў, А. П. Рыжоў, В. Дз. Рылаў, Дз. Р. Рэдзькін, А. В. Сабашнікаў, І. К. Сабко, П. С. Савачкін, А. І. Сазонаў, М. А. Салагуб, А. Ф. Салаўёў, Г. І. Салаўёў, М. Я. Салаўёў, У. Д. Салончанка, І. П. Салтыкоў, І. Ф. Самаркін, С. А. Самародаў, А. М. Самахвалаў, П. Ф. Самохін, З. А. Самсонаў, Б. В. Самсонаў, У. А. Сапрыкін, А. А. Саркісянц, В. П. Сарокін, А. Г. Сафонаў, П. С. Сафронаў, Р. І. Свердлікаў, Г. Г. Светачаў, А. А. Свірыдаў, С. Сейтваліеў, М. П. Селязнёў, І. П. Сівакоў, С. М. Сідаркоў, В. М. Сідзельнікаў, В. П. Сіман, А. М. Сіманаў, Ф. М. Сінічкін, М. Т. Сірычэнка, П. П. Скалацкі, М. Г. Скляраў, М. М. Слабацкоў, М. В. Смірнова, Дз. І. Смірноў, Дз. М. Смірноў, У. Я. Смірноў, Ю. В. Смірноў, У. П. Созінаў, Р. І. Спольнік, А. І. Старчанка, М. П. Ступішын, П. А. Сувораў, М. П. Судакоў, А. А. Суслаў, І. М. Сухамлін, А. П. Сухараў, М. Ц. Сушанаў, П. Ц. Сушкоў, М. Ф. Сцепавой, В. А. Сцёпін, М. М. Сцяжкін, І. В. Сцяпанаў, М. А. Сцяпанаў, М. П. Сядненкаў, Л. С. Сядоў, Б. А. Сяменчанка, В. П. Сяргееў, У. П. Сяргееў, А. П. Сярогін, Р. А. Такуеў, А. Е. Талмачоў, П. М. Тамілін, М. Тапівалдыеў, А. І. Тарнапольскі, Дз. П. Татмянін, В. Ф. Токараў, І. М. Траўкін, М. П. Трубіцын, П. Ц. Труфанаў, Д. Тураеў, Д. І. Туркоў, А. Я. Углоўскі, А. Узакаў, І. П. Украдыжэнка, У. Ф. Уладзіміраў, М. М. Уласаў, С. П. Уласенка, Ф. І. Ульянін, М. Умурдзінаў, І. Ургенышбаеў, І. Р. Усацюк, Д. Усманаў, В. С. Уткін, А. І. Уцін, С. Л. Ушакоў, М. П. Фамін, Н. І. Фенічаў, М. П. Фёдараў, М. Ц. Фёдараў, І. А. Філацьеў, Л. А. Філін, Я. Ф. Філіпскіх, М. І. Філоненка, М. Я. Фірсаў, А. В. Фларэнка, В. М. Фокін, Я. Ц. Форзун, І. В. Фралоў, А. К. Фядзюнін, П. І. Фядотаў, Г. М. Хадзімухаметаў, В. Х. Хазіеў, К. К. Хайбулін, А. С. Хайдараў, Ц. Г. Халікаў, С. В. Харламаў, В. Дз. Харытонаў, С. Х. Хасапаў, Ф. П. Хахракоў, Ф. В. Хіміч, Х. І. Хіндрэус, І. І. Хмель, К. Е. Ходаў, Ц. А. Холад, У. Г. Хомрач, В. П. Храмых, А. Р. Хрыстоў, А. М. Хутаранскі, С. Хушназараў, К. І. Царыцын, М. П. Цеплякоў, І. М. Цімчук, І. П. Ціткоў, А. А. Цітоў, А. П. Цітоў, У. А. Ціхаміраў, Р. М. Ціханаў, Л. П. Ціхмянаў, М. С. Цыбульскі, В. Е. Цыганкоў, В. М. Цымбаленка, М. Дз. Цыплухін, В. Т. Цыс, А. В. Цюрын, Л. Ф. Цюрын, С. Ц. Цяплоў, С. В. Цярэшчанка, Р. А. Чакмянёў, В. І. Чамадураў, М. Дз. Чапрасаў, І. І. Чарапанаў, Г. Я. Чарашнёў, У. Д. Чарнаморац, С. А. Чарнаўской, В. Я. Чарнышоў, А. Р. Чарняк, А. С. Чугаеў, М. К. Чупілка, В. С. Чурумаў, М. С. Чурыкаў, С. Г. Чыгладзе, В. П. Чыжоў, А. Я. Чыкін, Ш. І. Чылачава, А. Ф. Чынкоў, А. А. Чыркоў, І. М. Чысцякоў, Дз. Л. Чэпусаў, У. Ш. Шакіраў, П. І. Шамаеў, І. Ц. Шапачка, А. А. Шастакоў, А. М. Шаталін, В. Р. Шашкоў, М. Ф. Шварцман, М. І. Шкуліпа, Г. Ф. Шляпін, М. І. Шмаргун, Дз. А. Шмонін, К. Ф. Шувалаў, П. П. Шумаў, А. Дз. Шчаблакоў, В. К. Шчарбакоў, М. І. Шчацінін, М. М. Шчукін, М. М. Шыкін, А. П. Шылкоў, Ф. Ф. Шыляеў, А. М. Шыхаў, А. А. Шэвелеў, В. С. Шэвелеў, М. С. Шэвелеў, І. Т. Шэйкін, П. К. Юдзін, Дз. Р. Юркоў, А. М. Юрын, Дз. М. Яблачкін, М. А. Якаўлеў, А. Якубаў, К. Б. Якубаў, М. Я. Якупаў, Б. Я. Янтыміраў, М. М. Яромушкін, П. М. Яфрэмаў, В. М. Яшын.

**1945.** Г. А. Авакян, С. В. Авяр'янаў, Ф. Я. Агафонаў, М. І. Агурэчнікаў, С. Адашаў, Дз. Е. Алейнічэнка, В. А. Алісаў, І. П. Алтухоў, У. С. Алхімаў, М. М. Альшэўскі, М. Я. Аляксандраў, Ф. М. Аляксандраў, А. М. Аляксеенка, А. А. Аляксееў, Ж. Андрэ, А. С. Андрэеў, І. Я. Андрэеў, П. К. Андрэеў, Я. В. Ані-

сімаў, М. А. Аніскін, В. П. Анішчанка, М. А. Ануфрыеў, С. А. Апраксін, М. П. Аргуноў, В. Дз. Арлоў, Я. Н. Арлоў, І. М. Арсеньеў, І. С. Арцішчаў, П. А. Арэф'еў, І. І. Асінны, С. Ц. Атрохаў, А. К. Аўдзееў, Дз. М. Аўсяннікаў, Б. В. Аўчыннікаў, М. Ц. Аўчыннікаў, Б. М. Афанасьеў, В. М. Афанасьеў, Д. М. Ахмедаў, Ф. Ахмедаў, С. Ашыраў, К. І. Бабахін, В. А. Бабічаў, М. М. Бабкін, В. М. Бабкоў, М. І. Баброў, Л. Г. Бабушкін, А. М. Багалюбаў, М. Ц. Багамолаў, Ф. М. Бажора, П. С. Байцоў, С. І. Балгарын, І. М. Бандарэнка, С. Дз. Барадулін, С. М. Баразянец, Т. М. Барамзіна, В. М. Бардуноў, В. М. Барсукоў, П. М. Батыраў, М. І. Бахцін, В. Л. Белік, І. М. Беразуцкі, Р. Я. Бераснеў, Ф. С. Берастаў, Я. А. Бікбаў, В. М. Бірукоў, Ф. Ц. Блахін, В. П. Брагін, В. Я. Брагін, Г. І. Братчыкаў, М. В. Бурдзюк, М. І. Будзянкоў, Ф. В. Буслаў, П. П. Бухнін, М. К. Буянаў, Л. А. Быкавец, І. Л. Бялоў, І. М. Бярэзін, Ф. С. Вазнясенскі, В. А. Валасатаў, А. М. Валошын, М. Ф. Валошын, І. М. Валчкоў, В. У. Ванцян, П. Я. Вараб'ёў, М. П. Васільеў, М. А. Васін, Г. І. Вахалкоў, А. Я. Вахненка. А. Ф. Везіраў, Р. І. Велікаконь, Р. П. Віктараў. М. М. Вінаградаў, П. І. Вінаградаў, Ф. І. Вінакураў, А. І. Вісяшчаў, І. П. Віткоўскі, В. А. Віхіраў, А. А. Волкаў, А. П. Волкаў, М. Е. Волкаў, Х. Н. Гайсін, М. А. Гакель, У. А. Галаскокаў, К. М. Галіцкі, А. К. Галубкоў, А. М. Галубой, Б. Б. Гарадавікоў, А. В. Гарбатаў, Д. І. Гарбуноў, В. С. Гаўрылаў, Р. С. Гашава, А. І. Гераськін, А. М. Герман, М. М. Глебаў, І. В. Глушкоў, К. С. Гнідаш, А. Е. Голубаў, А. Ф. Грабнёў, К. В. Гразноў, М. І. Грыбкоў, Дз. П. Грыгор'еў, В. І. Грышаеў, В. С. Грышко, І. Ц. Грышын, І. П. Гураў, К. Ф. Гураў, П. Ф. Гушчын, М. С. Давыдаў, П. І. Дайнекін, М. П. Дакучаеў, В. І. Далгаполаў, У. К. Далгоў, А. І. Данілаў, М. І. Данілаў, М. М. Даніленка, А. І. Данскіх, Ю. М. Двужыльны, Г. І. Джункоўская Маркава, І. М. Дзусаў, М. М. Дзяканаў, М. П. Дзякаў, М. І. Доліна, С. А. Долінскі, М. І. Дружынін, М. Я. Дубровін, Г. А. Дуброўскі, М. В. Дунічаў, В. Дз. Едкін, Л. К. Ерафееўскіх, Ф. П. Ерзікаў, Р. Дз. Ермалаеў, Ф. П. Ермалаеў, І. М. Жагранкоў, П. М. Жалтухін, Г. П. Жасткоў, А. М. Жданаў, Л. В. Жолудзеў, І. Я. Жудаў, М. А. Жуканаў, В. П. Жукаў, Я. А. Жыгуленка, В. І. Жылін, М. М. Завадоўскі, Б. С. Заварызгін, В. І. Загароднеў, В. Г. Зайцаў, В. Л. Зайцаў, С. Х. Зайцаў, М. А. Замулаеў, Ю. Ф. Зарудзін (Занудзін), І. М. Запарожскі, А. І. Зараўняеў, А. Н. Захараў, Г. Н. Захараў, А. М. Звераў, І. І. Злыгосцеў, І. М. Зорын (Куча), А. Л. Зубкова, А. А. Ібраеў, Ф. Я. Іванішка, А. В. Іваноў, К. В. Іваноў, М. В. Іваноў, М. А. Ізюмаў, І. І. Ілазараў, Г. М. Інасарыдзе, А. Дз. Іопаў, М. А. Ісайка, С. Іскаліеў, В. У. Істомін, А. Ішанкулаў, П. В. Каваленка, П. П. Кажамякін, М. А. Кажушкін, А. А. Казакоў, В. І. Казакоў, Р. П. Казлоў, В. Г. Казянкоў, В. М. Каламоец, Б. П. Калач, І. А. Калашнікаў, М. С. Калашнікаў, П. Р. Калеснікаў, С. М. Калінін, М. А. Калодка, П. І. Каломін, У. Я. Калпакчы, В. І. Калядзін, Г. В. Камароў, Г. У. Камароў, Р. К. Камарыцкі, Дз. К. Камзаракаў, У. Р. Канарэеў, Г. Ф. Канцаў, І. В. Капейкін, А. М. Карасёў, М. В. Карачаў, І. М. Карніенка, В. І. Карнішын, Я. І. Каровін, М. П. Карпееў, В. І. Карпенка, В. Р. Карпенка, Я. Ф. Касавічоў, Ф. Дз. Касценка, Г. І. Катарын, П. Р. Кашчэеў, М. І. Кашын, В. Ш. Квачантырадзе, Р. К. Кіба, Г. Ф. Кірдзішчаў, М. С. Кірылаў, У. Я. Кірылаў, Р. Р. Кіяшка, В. С. Кладзіеў, І. К. Кліманаў, М. І. Кліменка, Дз. М. Клімзаў, П. Ф. Кляпач, М. І. Колычаў, М. І. Конанаў, В. М. Косцін, У. М. Кошалеў, К. А. Кошман, М. В. Крапцоў-Зайчанка, І. Т. Красноў, В. І. Краўчанка, В. І. Круглоў, Ф. Г. Крылоў, С. М. Крынін, І. Н. Кудзін, С. А. Кудрашоў, К. Г. Кузняцоў, Р. І. Кузняцоў, В. С. Кузьмін, М. А. Кузьмін, Л. Дз. Кукалеўскі, П. А. Кулакоў, А. Г. Куліеў, С. З. Кульбашной, А. П. Кулясаў, Дз. А. Купцоў, С. А. Купцоў, М. Ц. Курбатаў, Дз. М. Курлук, А. В. Курын, К. П. Кутрухін, С. Ф. Куфонін, І. М. Кухараў, М. М. Лазькоў, П. Б. Лакціёнаў, Г. Д. Лапацін, Г. С. Лебедзеў, С. А. Лебедзеў, В. А. Леванян, М. Лефеўр, М. Н. Ліннік, К. С. Лісіцын, В. М. Літвінаў, М. М. Логінаў, У. І. Логінаў, І. П. Луеў, Л. В. Лук'янчыкаў, М. А. Лунькоў, І. І. Лысенка, Ф. К. Лысенка, А. С. Люты, В. І. Лявіцкі, І. М. Лявонаў, І. Р. Лядоўскі, І. А. Мазгавой, М. С. Майдан, А. С. Майсеенка, Т. П. Макарава, К. В. Макараў, М. Р. Макараў, Я. А. Макееў, А. М. Максін, П. П. Маладых, А. І. Малаў, А. А. Мален, М. С. Малінін, І. Т. Малка, М. П. Мальчанка, М. В. Мамонаў, В. М. Манкевіч, А. І. Маркаў, В. В. Маркін, А. І. Марозаў, І. В. Марозаў, М. М. Мартынаў, У. К. Мартынаў, М. І. Марцьянаў, А. А. Марчанкаў, М. Ф. Мар'яноўскі, С. І. Масіенка, Ц. Д. Масін, А. П. Маслаў, А. А. Матросаў, У. М. Мачалаў, В. А. Меднаногаў, Н. Ф. Меклін-Краўцова, І. А. Мельнічэнка, А. М. Меркушаў, А. І. Міронаў, Р. Р. Міронаў, С. М. Міт, М. І. Мітрафанаў, В. К. Мітрохаў, А. Б. Міхайлаў, В. П. Мішэнін, Г. Г. Мурзаханаў, Р. Ф. Мусланаў, Г. М. Мядзведзеў, І. М. Мяльноў, П. П. Набойчанка, А. С. Навічкоў, М. К. Нагульн, П. І. Назарэнка, Я. Налепка, М. М. Нарган, А. М. Наскоў, В. М. Нікалаеў, М. П. Ніканаў, Г. А. Нікандрава, Я. М. Нікаеў, А. П. Нічыпарэнка, К. Б. Нуржанаў, В. П. Нячаеў, М. З. Няшкоў, А. М. Осіпаў, В. В. Осіпаў, Б. М. Падалка, А. М. Пайкоў, С. А. Палавін, Ф. П. Палій, І. С. Палявой, П. А. Палякоў, М. П. Панамароў, І. С. Панамарэнка, І. М. Панкоў, А. Дз. Паноў, М. Ф. Паноў, В. І. Панькоў, А. В. Папова, В. І. Папоў, Г. П. Паноў, М. Ф. Пасько, С. А. Пашкевіч, П. П. Перасумкін, Г. Б. Петэрс, М. М. Піджакоў, В. В. Піліпас, М. Ф. Пісарэўскі, Дз. М. Пічугін, М. Я. Платонаў, А. Я. Плешакоў, І. І. Пратапопаў, В. І. Протчаў, М. Ц. Пуцілін, А. Дз. Пуцін, Ю. І. Пыркоў, А. А. Пятраеў, В. М. Пятроў, М. П. Пятроў, П. Г. Пятроў, С. В. Пяцялін, К. В. Рабава, А. А. Рабаў, А. М. Рагожнікаў, С. А. Разінкін, А. К. Разумаў, А. М. Рай, П. М. Рак, І. П. Раманаў, Я. П. Раманаў, М. І. Рапасаў, А. С. Расказаў, Б. Г. Расохін, А. М. Рашчупкін, С. Дз. Роман, У. С. Рублеўскі, А. А. Рудноў, А. А. Рудэнка, А. Е. Рудэнка, А. В. Рыбакоў, М. І. Рыбін, В. П. Рыбкін, І. Ц. Рыжоў, А. І. Рытаў, М. Я. Рэдзькін, П. Дз. Рэшатаў, П. С. Садакаў, Ф. І. Садчыкаў, А. К. Сакольскі, У. С. Салавей, М. І. Саламацін, В. А. Салаўёў, У. А. Салаўёў, Ц. І. Салопенка, С. Р. Саннікаў, В. А. Санфірава, С. А. Саркісян, М. Д. Свінарчук, Ц. І. Святлічны, Л. С. Святошанка, А. П. Селязнёў, М. Я. Селязнёў, У. П. Сенчанка, Ф. І. Сенчанка, В. А. Сідарэнка, І. І. Сізінцаў, М. А. Сікорскі, П. І. Сірагоў, В. М. Сіроцін, С. А. Сіябандаў, Г. І. Скрыпнікаў, А. В. Смірноў, М. Я. Смірноў, Р. Я. Смірноў, Ф. А. Смірноў, У. С. Смятанін, Я. М. Смятнёў, І. М. Снітко, А. Н. Сталяроў, Я. Ц. Стацэнка, Ф. М. Стралец, С. М. Стралкоў, В. С. Стрыгуноў, Ю. К. Субоцін, В. В. Сугрын, Я. М. Сулейманаў, Б. Султанаў, В. Я. Супрун, С. Х. Суф'янаў, А. Г. Сухарукаў, У. П. Сухачоў, С. З. Сухін, Ф. А. Сцебенеў, І. М. Сыпала, І. Ф. Сяброва, Я. М. Сялянкін, У. Ф. Сямёнаў, Л. А. Сяргееў, В. В. Тамілоўскіх, Г. І. Тваўры, С. К. Токараў, А. А. Томскі, Дз. Я. Трамасаў, М. М. Трасцінскі, Р. А. Тупіцын, В. А. Турбін, С. В. Угрумаў, А. Т. Удавічэнка, М. М. Уладзіміраў, Н. З. Ульяненка, М. І. Усачоў, В. В. Фабрычнаў, Дз. К. Фалін, К. Я. Фамічова, І. П. Фанароў, В. В. Фацін, С. А. Федарэнка, Н. Н. Федуценка, П. В. Фешчанка, А. Р. Філонаў, А. А. Філосафаў, А. В. Фірсаў, М. А. Фірсаў, Я. Я. Фогель, Я. Б. Фрадкоў, М. А. Фралоў, Дз. Г. Фролікаў, І. С. Фурсенка, Э. Хаджаеў, Х. З. Хайрулін, М. Х. Хайрутдзінаў, В. Дз. Халеў, І. В. Халманаў, М. Н. Хамянкоў, С. І. Харламаў, У. М. Харытонаў, М. А. Хахлоў, М. П. Хваткоў, М. Я. Ходасаў, С. К. Хрукін, М. М. Хрыкаў, Л. І. Царэнка, С. Р. Цэрашкевіч, П. Р. Цімшын, І. Р. Цюрын, В. П. Цяплоў, М. Ф. Цяплоў, П. І. Цяраеў, М. К. Цярэшчанка, В. М. Чабатароў, М. П. Чалы, І. А. Чарнец, Р. І. Чарноў, А. Ф. Чарнышоў, І. В. Чашчарын, А. П. Чумакоў, Дз. В. Чумачэнка, Р. І. Чэрнікаў, І. С. Шабельнікаў, Ш. Шаімаў, А. С. Шалаеў, С. Е. Шалковы, А. Я. Шамшурын, І. Я. Шапавалаў, І. Р. Шарамет, В. І. Шаркоў, М. П. Шароў, П. С. Шароў, Г. І. Шаўкуноў, Б. А. Шахіраў, М. Ф. Шаціла, А. К. Шомін, М. М. Шохін, Р. А. Шпількоў, Ф. Г. Шунееў, Р. С. Шупік, С. І. Шутаў, У. Г. Шчогалеў, Р. І. Шыбанаў, П. В. Шыцяроў, М. М. Юдзін, Б. І. Юркоў, Б. І. Юркін, А. С. Юрчанка, П. Д. Юрчанка, І. П. Ябораў, А. М. Ягораў, В. В. Ягораў, А. А. Якаўлеў, Г. Якубаў, А. І. Якуненка, С. Р. Янкоўскі, П. А. Ярмілаў, М. І. Яромін, С. П. Яўграфаў, І. С. Яшкоў, М. І. Яшын.

**1946.** Р. Е. Аронава, А. Дз. Асадчыеў, А. С. Багданаў, А. М. Васільеў, М. К. Васільеў, П. С. Дакучалаў, І. М. Жмурко, А. І. Казакоў, П. А. Казленка, В. І. Касалапаў, В. Я. Кручкоў, Ц. А. Кучараба, А. У. Майсееў, І. А. Малікаў, К. Я. Малін, І. І. Мар'ін, Р. Ф. Махрынаў, У. А. Мілюкоў, У. А. Міхайлаў, Я. Д. Міхайлік, В. А. Мядзведзеў, І. І. Нечыпурэнка, М. Е. Півавараў, М. А. Прасвірнаў, Н. М. Распопава, М. П. Рэнц, Р. П. Сабкоўскі, А. М. Сідаровіч, В. З. Строкаў, М. Г. Сыртланава, І. Ф. Фацееў, М. І. Фясенка, А. М. Харытошкін, А. Ф. Худзякова, А. А. Царагародскі, А. Т. Цішчанка, М. П. Чэчнева, Ф. С. Шмырын, Ш. І. Шургая, С. С. Шчаглоў, А. М. Юльеў.

**1948.** У. С. Баскоў, Л. М. Літвінава.

**1957.** П. М. Гаўрылаў.

**1965.** У. С. Амельянюк, Ф. М. Ахлопкаў, І. П. Казінец, А. М. Касаеў, А. М. Кіжаватаў, Я. У. Клумаў, П. А. Ротмістраў, В. М. Усаў.

**ГЕ́РЧЫК** Канстанцін Васілевіч (н. 27.9. 1918, в. Сорагі Слуцкага р-на), ген.-палк. (1976). Чл. КПСС з 1941. Скончыў Арт. акадэмію імя Дзяржынскага (1950). У Айч. вайну на Зах., Бран-

скім, Цэнтр., 1-м і 4-м Укр. франтах: нач. штаба палка, брыгады. Удзельнік баёў пад Бабруйскам, Рославам, Бранскам, Варонежам, Курскам, Чарнігавам, Кіевам, Роўна, Львовам, Кракавам, Прагай. Да 1976 у Сав. Арміі. Дэпутат ВС БССР у 1975—80.

**ГЕ́ТА** (італ. ghetto), частка горада, вылучаная ў сярэднія вякі ў краінах Зах. і Цэнтр. Еўропы для ізаляванага жыцця яўрэяў. Тэрмін падчас ужываецца для абазначэння раёна горада, у якім сяліліся дыскрымінаваныя нацыянальнасці. У час 2-й сусветнай вайны — гар. канцэнтрацыйныя лагеры, якія ствараліся гітлераўцамі на акупіраванай тэр. СССР і інш. дзяржаў Еўропы для знішчэння яўрэйскага насельніцтва. З'яўляліся часткай *акупацыйнага рэжыму,* палітыкі расізму і генацыду. Тэрыторыя Г., як правіла, абносілася калючым дротам, ахоўвалася войскамі. Г. былі створаны ва ўсіх гарадах і населеных пунктах, дзе пражывала яўрэйскае насельніцтва. На тэр. Беларусі было створана 70 Г., буйнейшае з іх мінскае (100 тыс. чал.). У Гомелі акупанты стварылі 4, у Жлобіне —2, Гродне —2 (44 тыс. чал.) Г. У Барысаўскім Г. знішчана 9 тыс. чал., у Магілёўскім —7,5 тыс., у Полацкім —7 тыс., у г. п. Дамачова — 2,7 тыс. чал. Нягледзячы на пагрозу пакарання смерцю за ўкрыванне яўрэяў, насельніцтва дапамагала ім пазбегнуць Г. ці збегчы з яго. Людзі, якія ўцяклі з Г., далучаліся да партызан. У некаторых Г. дзейнічалі падп. групы (Мінск), адбываліся антыфаш. ўзброеныя выступленні (Клецк, Глыбокае). Вызваленне сав. войскамі акупіраванай тэр. выратавала ўцалелых вязняў Г. ад пагібелі. У радзе гарадоў на месцах былых Г. збудаваны мемарыялы.

*У. М. Якубоўскі.*

**ГІЛЬ-РАДЫЁНАЎ** Уладзімір Уладзіміравіч (18.7.1906, в. Дараганава Асіповіцкага р-на — 14.5.1944), адзін з кіраўнікоў партыз. барацьбы (жн. 1943 — май 1944). У 1939 скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе, падпалкоўнік. У 1941 нач. штаба 229-й стралк. дывізіі на фронце, паранены трапіў у палон. З 1942 па 15.8.1943 Г.-Р. быў камандзірам «дружыны», палка, брыгады т. зв. «Рускай нацыянальнай народнай арміі», створанай ням.-фаш. захопнікамі з ліку ваеннапалонных. Г.-Р. падрыхтаваў і арганізаваў пераход 16.8. 1943 гэтага фарміравання ў поўным складзе на бок партызан. Фарміраванне атрымала назву 1-й Антыфашысцкай партызанскай брыгады (гл. *Партызанская брыгада 1-я Антыфашысцкая*) і адразу ўключылася ва ўпартыя баі з гітлераўцамі, у т. л. па разгрому буйных ням.-фаш. гарнізонаў (гл. напр., *Вілейскі бой 1943, Докшыцка-Крулеўшчынская аперацыя 1943* і інш.). 16.9. 1943 Г.-Р. узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі, яму прысвоена воінскае званне палкоўніка. У крас.— маі 1944 у цяжкіх баях пры адбіцці карнай аперацыі *«Веснавое свята»* ў ходзе *Полацка-Лепельскай бітвы 1944* брыгада панесла вялікія страты (1026 чал.). Г.-Р. быў смяротна паранены і 14.5.1944 памёр.

**ГІНТАЎТ** Вітольд Міхайлавіч (7.3. 1922, в. Слабадшчына Мінскага р-на — 25.10.1987), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1944. На фронце з 1941 — механік-вадзіцель танка. Удзельнік баёў на калінінскім напрамку, пад Ржэвам, Курскай бітвы, вызвалення Украіны, Польшчы, Румыніі, баёў у Германіі. Старшына Г. вызначыўся ў баі пад Вінніцай: 10.1.1944 у складзе экіпажа танка знішчыў 6 варожых танкаў, самаходную гармату. На баявым рахунку экіпажа 17 танкаў, 4 самаходныя гарматы «фердынанд», 23 палявыя гарматы, 80 аўтамашын з ваен. грузам. З 1947 на гасп. рабоце ў Мінску.



В. М. Гінтаўт.

**ГІСТАРЫЯГРА́ФІЯ** гісторыі Беларускай ССР у гады Вял. Айчыннай вайны. У працах сав. вучоных раскрыты ход і значэнне баявых дзеянняў на сав.-германскім фронце, характар і маштабы ўсенар. барацьбы ў тыле ворага, роля сав. тылу, даказаны заканамерны вынік Вял. Айчыннай вайны, раскрыты вырашальная роля сав. народа і яго Узброеных Сіл у пераможным завяршэнні 2-й сусветнай вайны, сусветна-гіст. значэнне перамогі СССР. Выдадзены фундаментальныя працы «Гісторыя Вялікай Айчыннай вайны Савецкага Саюза, 1941—1945» (т. 1—6, 1960—65), «Гісторыя Камуністычнай партыі Савецкага Саюза» (т. 5, кн. 1, 1970), «Гісторыя СССР з найстаражытных часоў да нашых дзён» (т. 10, 1973), «Гісторыя другой сусветнай вайны, 1939—1945» (т. 1—12, 1973—82) і інш., у якіх адлюстраваны і падзеі на Беларусі. Шырокае кола пытанняў, звязаных з дзейнасцю КПСС у гады Вял. Айч. вайны, з барацьбой Сав. Узброеных Сіл на фронце, партызан у тыле ворага, асвятляецца ў калектыўных працах «Вайна ў тыле ворага. Аб некаторых праблемах гісторыі савецкага партызанскага руху ў гады Вялікай Айчыннай вайны» (вып. 1, 1974), «На чале абароны Савецкай Радзімы. Нарыс дзейнасці КПСС у гады Вялікай Айчыннай вайны» (1975, 2 выд. 1984), «Партыя на чале народнай барацьбы ў тыле ворага, 1941—1944 гг.» (1976), «Партыйнае падполле. Дзейнасць падпольных партыйных органаў і арганізацый на акупіраванай савецкай тэрыторыі ў гады Вялікай Айчыннай вайны» (1983) і інш. У лаканічнай абагульненай форме знайшла адлюстраванне і барацьба бел. народа разам з інш. народамі нашай краіны за перамогу ў Вял. Айч. вайне ў працах М. І. Макарава, А. Ф. Юдзянкова, Д. З. Мурыева, Л. М. Бычкова, Ю. В. Арuцюняна, А. В. Мітрафанавай, В. С. Мурманцавай, В. А. Анфілава, Г. А. Шубіна, Д. Навумава, В. М. Зямскога, С. А. Фядзюніна, В. Н. Андрыянава, Н. І. Кандаковай, Г. Д. Камкова, А. С. Князькова, Г. Ф. Саўчанкі і інш.

У гады вайны гісторыкі, парт. і камсам. работнікі Беларусі ў брашурах і артыкулах расказвалі пра падзеі на франтах вайны, у сав. тыле і на тэрыторыі, акупіраванай ворагам, раскрывалі кіруючую ролю Камуністычнай партыі ў арганізацыі ўсенар. барацьбы з ворагам, асвятлялі масавы гераізм сав. людзей у барацьбе з гітлераўскімі захопнікамі [публікацыі П. К. Панамарэнкі «Партызанскі рух у Вялікую Айчынную вайну» (1943), М. В. Зімяніна «Моладзь Беларусі змагаецца» (1942), Ц. С. Гарбунова «Беларусь жыве, Беларусь змагаецца!» (1943) і «Савецкая Беларусь» (1944), артыкулы Ц. П. *Бумажкова,* П. З. *Калініна,* Г. П. *Кожара,* В. І. *Казлова,* В. З. *Каржа,* Н. Я. Наталевіча, Ф. М. *Языковіча* і інш.]. У 1942—46 працавала *Камісія па гісторыі Айчыннай вайны* пры ЦК КП(б)Б. У 1950—60-я г. значна пашырыліся магчымасці для работы з дакументамі ваен. гадоў, створаны сектары гісторыі Вял. Айч. вайны ў Ін-це гісторыі АН БССР (1957, у 1986 рэарганізаваны ў аддзел) і Ін-це гісторыі партыі пры ЦК КПБ (1967—85), што садзейнічала актывізацыі навуковых распрацовак, паляпшэнню падрыхтоўкі кадраў. Удасканаленню арганізацыі і паглыбленню навуковых даследаванняў па гісторыі вайны садзейнічала пастанова ЦК КПБ «Аб дадатковых мерах па паляпшэнню навуковай распрацоўкі гісторыі ўсенароднай барацьбы на Беларусі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны» (1969).

Важнае значэнне для развіцця даследаванняў мела выданне зборнікаў дакументаў: «Зборнік лістовак усенароднай партызанскай барацьбы ў Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны (1941—1944 гг.)» (1952), «Злачынствы нямецка-фашысцкіх акупантаў на Беларусі, 1941—1944» (1963, 2 выд., 1965), «Усенародны партызанскі рух на Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны (чэрвень 1941 — ліпень 1944)» (т. 1—3, 1967—82), «У непакораным Мінску» (1987), «Камсамол Беларусі ў Вялікай Айчыннай вайне. Дакументы і матэрыялы» (складальнік Р. М. Шавяла, 1988). Асноўную ўвагу гісторыкі аддалі даследаванню дзейнасці Кампартыі Беларусі. У кнізе І. С. Краўчанкі «Падпольны бальшавіцкі друк у Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай

вайны» (1950) раскрыта роля падп. друку ў ідэйна-паліт. рабоце ў тыле ворага, паказана парт. кіраўніцтва ім, формы і метады распаўсюджвання, крыніцы інфармацыі. Выдадзеныя ў 1959 манаграфіі П. П. Ліпілы «КПБ — арганізатар і кіраўнік партызанскага руху на Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны» і Краўчанкі «Работа Кампартыі Беларусі ў тыле ворага (1941—1944 гг.)» паклалі пачатак паглыбленаму вывучэнню парт. падполля і ўсенар. партыз. руху на Беларусі. У 2-й частцы «Нарысаў гісторыі Камуністычнай партыі Беларусі» (1967) раскрыта больш шырокае кола пытанняў, паказана шматгранная дзейнасць партыі па мабілізацыі сіл бел. народа на адпор фаш. агрэсіі (аўтары Ліпіла, Шавяла, С. Р. Шчуцкі). Барацьба бел. народа супраць ням.-фаш. захопнікаў у гады вайны атрымала сістэматычнае асвятленне ў абагульняльнай працы «Гісторыя Беларускай ССР» (т. 2, 1958; 2 выд. 1961 на рус. мове). Асн. частка 4-га т. 5-томнай «Гісторыі Беларускай ССР» (1972—75) прысвечана гісторыі Беларусі ў гады вайны (аўтары Краўчанка, А. І. Залескі, В. П. Раманоўскі, Р. Р. Кручок, Э. Ф. Языковіч, У. І. Лемяшонак, Г. П. Купрэева, М. А. Якубоўскі, К. І. Дамарад, Г. І. Аляхновіч, М. У. Філімоненкаў, В. М. Горцаў).

У 4-м томе «Гісторыі Беларускай ССР» (1975) — першай буйной абагульняльнай працы — паказана кіруючая і арганізуючая роля Сав. Узброеных Сіл у дасягненні перамогі над ворагам, у вызваленні Беларусі ад фаш. іга. У ёй паэтапна прааналізаваны абарончыя баі сав. войск на тэр. Беларусі летам 1941, дзейнасць ЦК КП(б)Б і ўрада рэспублікі па мабілізацыі ўсіх сіл і сродкаў на адпор фаш. агрэсіі, дапамога народа Чырв. Арміі; даследаваны характар і маштабы ўсенар. барацьбы супраць ням.-фаш. захопнікаў на акупіраванай тэр. рэспублікі, узброеныя дзеянні партыз. фарміраванняў і падп. арг-цый у цеснай сувязі з супраціўленнем шырокіх пластоў насельніцтва акупантам; паказаны ўзаемадзеянне часцей Чырв. Арміі і партызан у перыяд вызвалення Беларусі, удзел сыноў і дачок рэспублікі ў бітвах на франтах вайны, іх працоўны подзвіг у сав. тыле, адраджэнне рэспублікі пасля выгнання ням.-фаш. захопнікаў, інтэрнацыянальная салідарнасць працоўных у сумеснай барацьбе супраць фашызму. У кнізе раскрыты вытокі перамогі сав. народа ў Вял. Айчыннай вайне, пераканаўча паказана, што толькі ва ўмовах сав. сацыяліст. ладу, дружбы народаў СССР было магчыма вызваленне Беларусі, аднаўленне разбуранай акупантамі нар. гаспадаркі, далейшае развіццё яе культуры. Аднатомная «Гісторыя Беларускай ССР» (1977), падрыхтаваная на аснове 5-томнага выдання, дазволіла больш шырокаму колу чытачоў азнаёміцца з гісторыяй барацьбы беларускага народа супраць ням.-фаш. захопнікаў.

Навуковае абагульненне вопыту барацьбы на акупіраванай тэр. Беларусі дадзена ў 3-томным выданні «Усенародная барацьба на Беларусі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны» (1983—85, аўтары Л. В. Аржаева, К. М. Гоцман, Дамарад, В. М. Іваноў, І. М. Ігнаценка, Г. І. Ільяшчук, Р. А. Калтуноў, Кручок, Купрэева, В. С. Лазебнікаў, Лемяшонак, Ліпіла, А. М. Мацко, М. М. Мінасян, Г. Л. Напрэеў, У. С. Пасэ, П. С. Паўлавец, У. П. Паўлаў, Я. С. Паўлаў, Р. П. Платонаў, Я. А. Пракоф'еў, Н. Е. Прахаровіч, Раманоўскі, У. М. Сікорскі, А. В. Сямёнава, М. В. Тараткевіч, А. А. Тозік, А. А. Фактаровіч, А. А. *Філімонаў*, Філімоненкаў, А. Ф. Хацкевіч, А. Д. Цітоў, Шавяла, Э. Ф. Языковіч). Даследаванне ахоплівае барацьбу бел. народа ў тыле ворага з першых дзён вайны і да поўнага выгнання акупантаў з тэр. рэспублікі.

У 3-томніку дэталёва раскрыта дзейнасць КП(б)Б і яго баявога памочніка — ЛКСМБ па стварэнню парт. і камсам. падполля, парт. кіраўніцтва ўсімі формамі барацьбы ў тыле ворага, арганізатарская і паліт. работа партыі, авангардная роля камуністаў. На канкрэтным гіст. матэрыяле паказаны няўхільны рост партыз. сіл, іх арганізацыйнае і баявое ўмацаванне, удасканальванне кіравання імі. Прааналізавана баявая дзейнасць партызан, падп. барацьба сав. патрыётаў у Мінску і ў інш. гарадах і населеных пунктах, паказана дзейнасць партызан па стварэнню і расшырэнню партыз. зон і краёў, аднаўленні Сав. улады на вызваленай і кантралюемай імі тэрыторыі, выратаванне насельніцтва ад знішчэння і вывазу ў фаш. рабства, дапамога насельніцтва партызанам, зрыў ваен., паліт. і эканамічных мерапрыемстваў ворага. На дакументальным матэрыяле паказана, што ўсенар. барацьба ў тыле ворага праходзіла ва ўмовах самага жорсткага рэжыму, масавага тэрору і гвалту. Спецыяльныя раздзелы 3-томніка прысвечаны паказу інтэрнацыянальнага характару партыз. руху на Беларусі, дружбы народаў СССР, удзелу зарубежных антыфашыстаў у барацьбе супраць акупантаў на бел. зямлі. Асвятляецца падрыхтоўка і правядзенне Бел. наступальнай аперацыі 1944, усямерная дапамога партызан і насельніцтва Чырвонай Арміі, масавы гераізм сав. патрыётаў у барацьбе з ворагам. Заключныя раздзелы прысвечаны аднаўленню нар. гаспадаркі рэспублікі пасля выгнання гітлераўскіх акупантаў, дапамога фронту ва ўмовах вайны.

Гісторыкі рэспублікі апублікавалі значную колькасць манаграфічных даследаванняў, у якіх адлюстраваны розныя аспекты барацьбы супраць ням.-фаш. захопнікаў. У манаграфіі Тозіка «У дні суровых выпрабаванняў. Умацаванне радоў КП(б)Б ва ўмовах падполля ў гады Вялікай Айчыннай вайны (1941—1944)» (1981) прааналізавана парт. будаўніцтва КП(б)Б на акупіраванай тэр. Беларусі. Асобныя аспекты гісторыі падп. друку рэспублікі адлюстраваны ў кнігах С. В. Марцэлева «Друк Савецкай Беларусі» (1967), М. Е. Дастанкі «Наша «Звязда» (1968), «Газета «Звязда» ў гады Вялікай Айчыннай вайны (чэрвень 1941— май 1945 гг.)» (1970), Г. Дз. Кнацько «Рукапісныя выданні партызан Беларусі» (1979) і інш. Барацьба камсамольцаў і моладзі супраць гітлераўскіх захопнікаў у партыз. атрадах і падполлі паказана ў працах Р. Ц. Аблавай «Гэта было на Беларусі» (1957), Краўчанкі «Камсамол Беларусі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у гады Вялікай Айчыннай вайны (1941—1944 гг.)» (1958), Шавялы ў кнігах «Савецкія партызаны» (1961, 2 выд. 1963), «Нарысы гісторыі Ленінскага камсамола Беларусі» (1975) і інш. Асобныя бакі гэтай праблемы асветлены ў работах Я. С. Мазуравай, А. Я. Журава, М. Я. Нікалаева, Г. І. Сцяпанава і інш. Дзейнасць прафсаюзаў Беларусі ў гады вайны абагульнена ў кнізе «Нарысы гісторыі прафсаюзаў Беларусі (1905—1969 гг.)» (1970, аўтары главы Кручок, Языковіч). Важным этапам у даследаванні вядучай ролі рабочага класа ў барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў было выданне 3-га т. «Гісторыі рабочага класа Беларускай ССР» — «Рабочы клас БССР напярэдадні і ў гады Вялікай Айчыннай вайны, у перыяд умацавання і развіцця сацыялістычнага грамадства (1938—1960)» (1985, аўтары ваен. раздзелаў Кручок, Купрэева, Аляхновіч, І. Я. Марчанка, Раманоўскі, Фактаровіч, Языковіч). У кнізе раскрыта авангардная роля рабочых у зараджэнні і развіцці падп. барацьбы і партыз. руху, іх высокая свядомасць, арганізаванасць і дысцыпліна, здольнасць згуртаваць усіх працоўных для абароны заваёў Вял. Кастрычніка; асвятляецца працоўны гераізм рабочых Беларусі ў сав. тыле і на вызваленай тэр. рэспублікі.

Беларускія гісторыкі паглыблена вывучаюць характар і маштабы ўсенар. партыз. руху на акупіраванай тэр. рэспублікі, яго зараджэнне і развіццё, баявую дзейнасць узброеных партыз. фарміраванняў, іх няўхільны рост, арганізацыйнае і баявое ўмацаванне, дапамогу Чырвонай Арміі. У іх даследаваннях абгрунтаваны вывад аб тым, што партыз. рух на Беларусі займаў важнае месца ў агульнай барацьбе сав. партызан, развіваўся ў цеснай сувязі з усім ходам Вял. Айч. вайны. У кнігах былога 1-га сакратара ЦК КП(б)Б, начальніка ЦШПР Панамарэнкі «Непакораныя (Усенародная барацьба ў тыле фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну)» (1975), «Усенародная барацьба ў тыле нямецка-фашысцкіх захопнікаў, 1941—1944» (1986) раскрываецца дзейнасць партыі па арганізацыі падп. і партыз. барацьбы, формы барацьбы ў тыле ворага, роля і работа ЦШПР і інш. штабоў, баявая дзейнасць партызан і падпольшчыкаў, масавы гераізм сав. людзей. Шэраг вывадаў аб усе-

нар. партыз. руху зроблены Зімяніным у дакладзе на сесіі АН БССР (студз. 1949), апублікаваным у яго кнізе «Пад сцягам ленінізму» (1984) і П. М. Машэравым у кнізе «Выбраныя прамовы і артыкулы» (1982). Барацьбе ў тыле ворага прысвечаны работы Я. С. Паўлава «У. І. Ленін і партызанскі рух» (1975), «Камісар Бумажкоў» (1978), «У суровым сорак першым» (1985), В. К. Кісялёва «Партызанская разведка. Верасень 1943— ліпень 1944» (1980), С. А. Умрэйкі, Залескага, П. М. Кабрынца «Патрыятызм настаўнікаў і школьнікаў Беларусі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў» (1980) і інш. Даследаванню інтэрнацыянальнага характару партыз. руху прысвечаны манаграфіі М. А. Якубоўскага «Дапамога савецкага тылу партызанам (Матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне)» (1973) і «У тыл ворага (Дапамога краіны кадрамі партызанскаму руху Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны)» (1979), Хацкевіча і Кручка «Станаўленне партызанскага руху на Беларусі і дружба народаў СССР» (1980), Кабрынца «Магутны фактар мужнасці і гераізму. Інтэрнацыянальна-патрыятычнае выхаванне працоўных Беларусі ў тыле ворага (1941—1944 гг.)» (1985), зборнік «Баявая дружба беларускага і літоўскага народаў (1941—1945)» (1977) і інш. Удзел зарубежных антыфашыстаў у партыз. руху на Беларусі разглядаецца ў публікацыях Э. Ф. Языковіч у кнігах «Савецкае славяназнаўства» (1969), «Баявая садружнасць савецкага і польскага народаў» (1973), «На шляхах непарушнай дружбы» (1977), І. Дз. Ветрава «Браты па зброі» (1962, 2 выд. 1965, на рус. мове), Э. М. Пазняка «Суседзі і браты» (1970), Д. Б. Мельцара, П. З. Савачкіна «Дружба скрозь стагоддзі» (1970) і інш. Гісторыя падп. барацьбы сав. людзей прааналізавана ў кнігах «Гісторыя Мінска» (1957, на рус. мове; 2 выд. 1967), «Аб партыйным падполлі ў Мінску ў гады Вялікай Айчыннай вайны (чэрвень 1941 — ліпень 1944 гг.)» (1961), «Героі падполля. Аб падпольнай барацьбе савецкіх патрыётаў у тыле нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны» (вып. 1, 1965, 4 выд. 1972; вып. 2, 1968, 3 выд. 1972; аўтары В. С. Давыдава, У. Е. *Лабанок*, Краўчанка, Кручок, А. А. Кузняеў, І. П. Кожар, А. Дз. *Рудак*, Раманоўскі), у кнізе М. І. Пахомава, Н. І. Дарафеенка і М. У. Дарафеенкі «Віцебскае падполле» (1969, 2 выд. 1974), у зборніку «Подзвігі іх бессмяротныя. Аб падпольнай барацьбе савецкіх людзей у захопленых фашысцкімі акупантамі гарадах і вёсках Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны (1941—1944)» (1978) і інш. Супраціўленне няўзброенага насельніцтва паліт., ваен., эканамічным і інш. мерапрыемствам ворага знайшло асвятленне ў працах Краўчанкі і Залескага «Беларускі народ у гады Вялікай Айчыннай вайны» (1959), Залескага «Падарожжа ў суровае мінулае» (1960), «Быт беларускіх сялян у партызанскім краі» (1960), «У партызанскіх краях і зонах: Патрыятычны подзвіг савецкага сялянства ў тыле ворага (1941—1944 гг.)» (1962), «У тыле ворага» (1969), «Гераічны подзвіг мільёнаў у тыле ворага» (1970), «Дарогамі партызанскай Беларусі» (1974) і інш.

Характар і сутнасць ням.-фаш. акупацыйнай палітыкі і яе крах даследаваны ў працах Раманоўскага «Саўдзельнікі ў злачынствах» (1964), «Нельга дараваць» (1967, у сааўтарстве з В. В. Міхайлавым) і «Забыццю не падлягае» (1985), Фактаровіча «Крах аграрнай палітыкі нямецка-фашысцкіх акупантаў на Беларусі» (1979), у кнізе «Нямецка-фашысцкі акупацыйны рэжым» (1965, аўтары артыкулаў Краўчанка, Залескі, Раманоўскі, Ліпіла, Сямёнава, І. П. Хаўратовіч, А. Л. Манаенкаў). У кнізе «Нацысцкая палітыка генапыда і «выпаленай зямлі» на Беларусі, 1941—1944» (1984) прыведзены канкрэтны матэрыял, які раскрывае характар, формы і метады фаш. акупацыйнага рэжыму, злачынствы гітлераўцаў на акупіраванай імі бел. зямлі.

Шэраг работ прысвечаны абарончым баям Чырвонай Арміі на тэр. Беларусі, мабілізацыі сіл бел. народа на адпор ворагу летам 1941, паказу вырашальнай ролі Сав. Узброеных Сіл у дасягненні перамогі над ворагам, у вызваленні Беларусі ад фаш. іга: М. К. Андрушчанкі «Народнае апалчэнне Беларусі» (1980) і «На зямлі Беларусі летам 1941 года» (1985), Б. Дз. Даўгатовіча «У адзіным страі — да адзінай мэты» (1985), «Чырванасцяжная Беларуская ваенная акруга» (1973, 2 выд. 1983), Ю. В. Плотнікава «У бітвах за Беларусь» (1982) і інш. Працоўны подзвіг эвакуіраванага ва ўсходнія раёны краіны насельніцтва Беларусі паказаны ў манаграфіі Аляхновіч «Працоўныя Беларусі — фронту» (1972). Гісторыі аднаўлення нар. гаспадаркі Беларусі ва ўмовах вайны, якая працягвалася, прысвечаны работы А. Я. Пейсаховіча «Барацьба працоўных Беларускай ССР за аднаўленне народнай гаспадаркі і культуры ў гады Вялікай Айчыннай вайны (1943—1945 гг.)» (1959) і «Культурнае будаўніцтва ў Беларускай ССР у 1943—1945 гг.» (1961), «Эканоміка Савецкай Беларусі, 1917—1967» (1967), А. В. Люцко «Дзейнасць КПБ па падбору, выхаванню і расстаноўцы кіруючых кадраў (1943—1945 гг.)» (1973), Купрэевай «Адраджэнне народнай гаспадаркі Беларусі» (1976), «Народы СССР — працоўным Беларусі» (1981), Аляхновіч «Эканоміка Беларусі ва ўмовах Вялікай Айчыннай вайны (1941—1945)» (1982). Першыя аднаўленчыя работы ў рэспубліцы знайшлі адлюстраванне ў працах І. Я. Марчанкі, А. П. Белязо, Л. М. Лыча, Н. С. Маргунова, В. М. Чэркас, М. І. Старавойтава і інш.

Навуковую каштоўнасць маюць даведнікі «Падпольныя партыйныя органы Кампартыі Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны (1941—1944)» (1975), «Падпольныя камсамольскія органы Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны (1941—1944)» (1976), «Партызанскія фарміраванні Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны (чэрвень 1941 — ліпень 1944)» (1983, аўтары Манаенкаў, Е. П. Гарэлік, А. Ф. Маркава, Паўлавец, Р. Ф. Пепяляева), бібліяграфічны паказальнікі «Падпольныя перыядычныя выданні на Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны» (1975, складальнік В. С. Адамовіч), «Беларуская ССР у Вялікай Айчыннай вайне Савецкага Саюза (1941—1945 гг.)» (1980, складальнікі Р. М. Чыгірова, Э. І. Ляўко), матэрыялы энцыклапедычных выданняў: «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» (т. 1—12, 1969—75), «Беларуская ССР. Кароткая энцыклапедыя» (т. 1—5, 1978—82), «Навечна ў сэрцы народным» (1975, 3 выд. 1984). «Мінск — горад-герой» (1976), «Мінск» (1980, 2 выд. 1983), «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» (з 1984), «Брэст» (1987), «Віцебск» (1988), «Гродна» (1989).

Рэакцыйная буржуазная Г. шляхам хлусні, фальсіфікацыі і грубага скажэння фактаў спрабуе ўтаіць праўду аб вайне, прынізіць значэнне перамогі Сав. дзяржавы. Работы Раманоўскага «Супраць фальсіфікацыі гісторыі савецкага партызанскага руху» (1962), «Супраць фальсіфікацыі гісторыі Беларусі перыяду Вялікай Айчыннай вайны» (1975) і «Праўда гісторыі супраць фальсіфікатараў» (1985), Сямёнавай «Ішлі ў паходы партызаны...» (1968), артыкулы інш. аўтараў выкрываюць ілжывыя версіі буржуазных фальсіфікатараў. У 1986 апублікаваны навукова-папулярны нарыс К. К. Германа «Праўда гісторыі супраць ілжы аб вайне: Крытыка буржуазных фальсіфікацый гісторыі другой сусветнай вайны і Вялікай Айчыннай вайны Савецкага Саюза». Гл. таксама *Архівы, Крыніцазнаўства, Мемуары*, спіс літаратуры аб Вял. Айч. вайне. *Э. Ф. Языковіч.*

**ГЛАГО́ЛЕЎ** Васіль Васілевіч (4.3.1898, Калуга — 21.9.1947), ген.-палк. (1944), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1925. У арміі з 1916, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. У Айч. вайну на фронце з чэрв. 1941, камандзір дывізіі, корпуса, камандуючы арміямі. Вызначыўся пры фарсіраванні Дняп-

ра на тэр. Украіны. Камандаваў 31-й арміяй, якая ў *Беларускай аперацыі 1944* прарвала абарону ворага пад Дуброўнам, удзельнічала ў вызваленні Оршы, Барысава, Мінска, Гродна. Пасля вайны камандуючы арміямі, паветр.-дэсант. войскамі. Яго імем названа вуліца ў Мінску.

**ГЛАЗУНОЎ** Пётр Аляксеевіч (н. 20.2. 1920, в. Петрачкі, Віцебскі р-н), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1942. Скончыў Віцебскі аэраклуб (1938), Адэскую ваен. авіяцыйную школу (1940). З сак. 1943 на Паўд.-Зах., 3-м Укр., 2-м Прыбалт. і Ленінградскім франтах. Камандзір эскадрыллі, нам. камандзіра штурмавога авіяпалка; зрабіў 138 баявых вылетаў збіў 3 самалёты, знішчыў 18 танкаў, 68 аўтамашын, шмат інш. тэхнікі, цэнтр. склады данбаскай групоўкі праціўніка. У вер. 1943 група самалётаў на чале з Г. знішчыла і пашкодзіла на аэрадроме 14 варожых самалётаў, разбурыла ангар. Да 1975 у Сав. Арміі.


В. В. Глаголеў. П. А. Глазуноў. М. І. Глінскі. К. С. Гнідаш.

**ГЛЕБАЎ** Апанас Васілевіч (н. 16.1. 1902, в. Аляксандраўка Рослаўскага р-на Смаленскай вобл.), Герой Сацыяліст. Працы (1943). Ганаровы чыгуначнік (1943). Чл. КПСС з 1925. З 1942 цягніковы вагонны майстар і інспектар вагоннай гаспадаркі 3-й калоны паравозаў асобага рэзерву Наркамата шляхоў зносін. Званне Героя прысвоена за выключныя заслугі перад дзяржавай у забеспячэнні перавозак для фронту і нар. гаспадаркі і дасягненні ў аднаўленні чыг. транспарту ва ўмовах ваен. часу. У 1944—73 працаваў на чыг. ст. Полацк. Ганаровы грамадзянін Полацка (1979).

**ГЛІННІКІ,** вёска на тэр. Ушацкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі. Знаходзілася за 1 км на ПнЗ ад в. Заполле Глыбачанскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 56 чал. У крас. 1944, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 6 жыхароў, вёску (14 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1975 на месцы вёскі пастаўлены памятны знак.

**ГЛІНСКІ** Міхаіл Іосіфавіч (н. 21.11. 1901, в. Каменка Бабруйскага р-на), ген.-лейт. (1945). Чл. КПСС з 1919. У Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз. вайны. У 1921—24 вучыўся ў 1-й Аб'яднанай ваен. школе імя ВЦВК, ахоўваў урадавыя будынкі і кватэру У. І. Леніна. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1933). У 1933—38 на дыпламатычнай рабоце. У Айч. вайну на Зах., Паўд.-Зах., 1-м Укр. франтах: камандзір дывізіі, корпуса. Пасля вайны да 1960 на адказных пасадах у Сав. Арміі.

**ГЛІНЦЫ,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 4 км на ПнУ ад в. Лісна Чапаеўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 45 чал. У ліп. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 29 жыхароў, вёску (12 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ГЛІСНАЎКА,** вёска на тэр. Полацкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася ў Азінскім сельсавеце. Перад вайной у ёй жылі 124 чал. У снеж. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 28 жыхароў, вёску (37 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ГЛОТАЎ** Васіль Васілевіч (21.4.1913, с. Лістападаўка Грыбанаўскага р-на Варонежскай вобл. — 30.1.1983), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1939. Скончыў ВПШ пры ЦК КПСС (1957). Удзельнік абароны Ваўкавыска ў 1941. З лют. 1942 палітрук партыз. роты, в. а. нач. штаба брыгады, у сак.— ліп. 1943 камісар *партызанскай брыгады 1-й Асіповіцкай,* потым камандзір, камісар *партызанскага атрада 210-га імя І. В. Сталіна,* у маі — ліп. 1944 камандзір *Асіповіцкай ваенна-аператыўнай групы.* З 1944 на сав. і парт. рабоце. Яго імем названа вуліца ў г. Асіповічы.

**ГЛУЗДОЎСКІ** Уладзімір Аляксеевіч (27.5.1903, Тбілісі — 16.11.1967), ген.-лейт. (1943). Чл. КПСС з 1920. У Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1936). У Айч. вайну ўдзельнічаў у баях пад Мінскам, Магілёвам, Смаленскам (1941), у бітве пад Масквой, камандаваў 31-й, потым 7-й, 6-й арміямі ў Ржэўска-Вяземскай, Спас-Дземенскай, Смаленскай (1943), Свірска-Петразаводскай (1944), Вісла-Одэрскай, Верхне- і Ніжне-Сілезскіх (1945) аперацыях. Да 1961 у Сав. Арміі.

**ГЛУСК,** гар. пасёлак, цэнтр Глускага р-на, на р. Пціч. За 170 км на ПдЗ ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Ратміравічы на лініі Бабруйск — Акцябрскі. Аўтадарогамі звязаны з Бабруйскам, Старымі Дарогамі, Любанню, Акцябрскім. З студз. 1938 да вер. 1944 у Палескай вобл. 5125 жыхароў у 1939. 28.6.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1941 у раёне Г. ў акружэнні бязлітасныя баі вялі часці 24-й Самара-Ульянаўскай Жалезнай стралк. дывізіі пад камандаваннем ген.-маёра К. М. *Галіцкага.* У ліп. 1941 зводная кав. група (32-я, 43, 47-я кав. дывізіі) пад камандаваннем ген.-палк. А. І. Гарадавікова зрабіла 12-дзённы рэйд па тылах фаш. 2-й арміі. 24 ліп. 32-я кав. дывізія заняла Г., разграміла полк гітлераўцаў, які там знаходзіўся. Воіны 214-й паветрана-дэсантнай брыгады, якія дзейнічалі ў тыле ворага, узарвалі каля Г. мост цераз р. Пціч і разграмілі фаш. гарнізон. Акупанты знішчылі ў Г. каля 3 тыс. чал. У Г. і раёне дзейнічалі Глускія падп. райкомы КП(б)Б (4.8.1943—28.6.1944) і ЛКСМБ (жн. 1941 — 28.6.1944), партыз. брыгады 99-я імя Дз. Ц. Гуляева, 100-я Глуская, 121-я імя А. Ф. Брагіна, 123-я Акцябрская імя 25-годдзя БССР, 161-я імя Катоўскага, 225-я, 258-я імя Куйбышава, Глускі асобны партыз. атрад (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«Сацыялістычная вёска».* Вызвалены 27. 6.1944 воінамі 96-й (ген.-маёр С. М. Кузняноў) і 50-й (ген.-маёр А. С. Уладычанскі) гвардз. стралк. дывізій 28-й арміі, 19-й механізаванай брыгады (палк. У. В. Яршоў) і 10-й гвардз. кав. дывізіі (палк. М. С. Папрыкайла) конна-механізаванай групы ў ходзе *Бабруйскай аперацыі 1944.* Партызаны брыгад 100-й імя Кірава, 121-й імя Брагіна, 161-й імя Катоўскага і 258-й імя Куйбышава 27—28.6.1944 захапілі пераправу цераз р. Пціч у раёне Г. і ўтрымлівалі яе да падыходу сав. войск. У Г. брацкая магіла сав. патрыётаў і 3 магілы ахвяр фашызму, на якіх пастаўлены помнікі, мемар. комплекс землякам.

**ГЛУХОЕ ПЕРХУРАВА,** вёска на тэр. Дзяржынскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1,5 км на З ад в. Фрунзе Дзямідавіцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 125 чал. 30.1. 1943, у час карнай аперацыі *«Якаб»,* фашысты загубілі 120 жыхароў, вёску (32 двары) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1957 на месцы вёскі ўстаноўлены мемар. знак, на магіле ахвяр фашызму — абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ГЛУШАНКО́Ў** Нічыпар Эмануілавіч (14.3.1902, в. Зубры Горацкага р-на — 20.12.1959), ген.-лейт. авіяцыі (1944). Чл. КПСС з 1926. У Чырв. Арміі з 1921. Скончыў пях. школу (1921), школу лётчыкаў (1929), курсы ўдасканалення камсаставу ВПС (1939). Удзельнік нац.-рэв. вайны ў Іспаніі 1936—39. У Айч. вайну нам. камандуючага, камандуючы ВПС на Крымскім і Закаўказскім франтах. У 1945—54 камандуючы ВПС ваен. акругі. Да 1958 у ваен.-навучальных установах.

**ГЛУШКО́** Іосіф Нічыпаравіч (4.4.1905, в. Бабунічы Петрыкаўскага р-на — 23.7.1986), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Палескай вобл. Чл. КПСС з 1930. З 1929 на сав. і гасп. рабоце. З жн. 1942 камандзір партыз. атрада, у ліп. 1943 — ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады 130-й Петрыкаўскай,* адначасова чл. Петрыкаўскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—60 на парт. і гасп. рабоце.

**ГЛЫБО́КАЕ,** горад, цэнтр Глыбоцкага р-на, у межах горада азёры Вялікае і Кагальнае. За 187 км на З ад Віцебска, чыг. станцыя на лініі Крулеўшчына — Варапаева, на аўтадарогах Полацк — Вільнюс і Докшыцы — Шаркоўшчына. Акупіравана ням.-фаш. захопнікамі 2.7.1941, разбурана. Акупанты знішчылі ў Г. і раёне 10 133 чал., у 3 лагерах смерці — больш за 37 тыс. чал., у т. л. ў *Беразвецкім лагеры смерці* больш за 27 тыс. сав. і італьянскіх ваеннапалонных. У раёне дзейнічалі Глыбоцкія падп. райкомы КП(б)Б (16.11.1943 — 3.7.1944) і ЛКСМБ (13.11.1943 — 3.7.1944), партыз. брыгады імя Варашылава, імя ЦК КП(б)Б, імя Ракасоўскага, «Кастрычнік», імя Леніна, асобныя атрады імя Панамарэнкі, «Трэція» (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«За свабоднае жыццё».* Вызвалена 3.7.1944 у ходзе *Полацкай аперацыі 1944* войскамі 1-га Прыбалт. фронту: 145-й стралк. дывізіі (ген.-маёр П. А. Дзіброва) 92-га стралк. корпуса, 39-й гвардз. танк. брыгады (палк. І. П. Калінін) 43-й арміі, 89-й танк. брыгады (падпалк. А. М. Ермакоў), 46-й механіз. брыгады (ген.-маёр М. Л. Манжурын) 1-га танк. корпуса, 2-га партыз. атрада (камандзір С. І. Котаў) *партызанскай брыгады «Кастрычнік».* У Г. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму, могілкі сав. і італьянскіх ваеннапалонных, на іх пастаўлены помнікі.

*У. М. Якубоўскі.*

**ГНІ́ДАШ** (Гнедаш) Кузьма Савельевіч (17.11.1914, с. Салагубаўка Роменскага р-на Сумскай вобл.— 19.6.1944), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1939. У Чырв. Арміі з 1936. Скончыў ваен. вучылішча (1940). На фронце з чэрв. 1941. Камандзір аператыўна-дыверсійнага цэнтра разведаддзела штаба 1-га Бел. фронту Г. вызначыўся ў тыле ворага на тэр. Беларусі ў 1943—44. Групы пад яго камандаваннем вялі разведку і дыверсійную работу ў раёне Слуцка, Баранавіч, Кобрына, Мінска, Асіповіч, Пінска, Лунінца, Брэста, на тэр. Кіеўскай і Чарнігаўскай абл.; патапілі 10 параходаў, 14 баржаў, пусцілі пад адхон 21 эшалон з жывой сілай і баявой тэхнікай праціўніка, падарвалі чыг. мост цераз Дняпро каля Кіева. Выявілі сістэму абароны ворага, што дапамагло Чырв. Арміі фарсіраваць Дзясну і Дняпро, правесці *Беларускую аперацыю 1944.* 19.6.1944 частка групы была акружана каля Слоніма карным атрадам. Каб не трапіць у палон, цяжка паранены маёр Г. і радыстка К. Т. Давідзюк падарвалі сябе гранатай. Пахаваны ў Слоніме, дзе яго імем названа вуліца, на магіле пастаўлены помнік.

**ГО́ЙШЫК** Мікалай Васілевіч (17.1.1927, в. Воля Івацэвіцкага р-на — 24.4.1944), юны герой, удзельнік партыз. руху ў Брэсцкай і Пінскай абл. У пач. вайны партыз. сувязны, з 1943 падрыўнік *партызанскай брыгады імя Ф. Э. Дзяржынскага.* Пусціў пад адхон 7 варожых эшалонаў. У час чарговай аперацыі партызанам не ўдалося замініраваць рэйкі з-за ўзмоцненай ням. аховы. Г. кінуўся з мінай пад эшалон з танкамі, гарматамі і жывой сілай ворага. У в. Міхнавічы Івацэвіцкага р-на помнік Г. Яго імем названы вуліцы ў Ганцавічах, Івацэвічах, Мінску, Яглевіцкая СШ, піянерскія дружыны ў многіх школах Беларусі, у г. Івацэвічы адкрыты Дом-музей Колі Гойшыка.

**«ГО́ЛАС ПАРТЫЗА́НА»,** газета, заснавана ў 1935 пад наз. «За бальшавіцкія калгасы». У час ням.-фаш. акупацыі орган Даманавіцкага падп. РК КП(б)Б. Вядома 11 нумароў за 1.7—10.10.1943 на бел. мове. Рэдактар А. У. Броўка. Пасля вызвален-тар А. У. Броўка. Пасля вызвален-у 1953—60 «Калгасная праўда», орган Даманавіцкага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**«ГО́ЛАС ПАРТЫЗА́НА»,** газета, заснавана ў 1931 пад наз. «Сталінскі шлях». У час ням.-фаш. акупацыі орган Клічаўскага падпольнага РК КП(б)Б. Вядомы 24 нумары за 27.9.1942—24.6.1944 на бел. і рус. мовах. Рэдактары: С. М. Патупчык, І. П. Крыскавец (1943), А. Ф. Тарнецкі (1944). Пасля вызвалення выдавалася пад наз. «Сталінская праўда», «Зара», з 1965 «Сцяг Саветаў», орган Клічаўскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«ГО́ЛАС СЕЛЯНІ́НА»,** газета, заснавана ў 1939. У час ням.-фаш. акупацыі орган Стаўбцоўскага падп. РК КП(б)Б. Вядома 35 нумароў за 24.10.1943—6.7.1944 на бел. і рус. мовах. У 1944 выпускала дадатак «Партызанскае жыгала» на бел. мове. Пасля вызвалення выдавалася пад той жа назвай, з 1962 «Прамень», орган Стаўбцоўскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**ГО́ЛУБАЎ** Анатоль Емяльянавіч (29.8.1908, в. Нова-Маркаўка Канцеміраўскага р-на Варонежскай вобл.— 29.1.1978), Герой Сав. Саюза (1945), ген.-маёр авіяцыі (1954). Чл. КПСС з 1931. У Чырв. Арміі з 1930. Скончыў Адэскую ваен. авіяц. школу пілотаў (1933), Ваен. акадэмію Генштаба (1949). З чэрв. 1941 па Паўд.-Зах., Ленінградскім, Зах., 3-м Бел. франтах. Камандзір знішчальнага авіяпалка палкоўнік Г. зрабіў 355 баявых вылетаў, удзельнічаў у 43 паветр. баях, збіў 10 самалётаў праціўніка. Удзельнік вызвалення Віцебска, Оршы, Мінска. Да 1955 у Сав. Арміі.

Н. Э. Глушанкоў. М. В. Гойшык.



**ГО́ЛУБЕЎ** Канстанцін Дзмітрыевіч (27.3.1896, г. Пятроўск Саратаўскай вобл.— 9.6.1956), ген.-лейт. (1942). Чл. КПСС з 1919. У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў ваен. акадэміі імя Фрунзе (1926), Генштаба (1938). У Айч. вайну камандаваў 13-й, потым 43-й арміямі на Цэнтр., Зах., Калінінскім, 1-м Прыбалт. франтах. Удзельнічаў у абарончых аперацыях пачатку вайны, у бітве пад Масквой, у Смаленскай (1943), Бел. (1944) аперацыях. У баях пад Віцебскам (май 1944) цяжка паранены. Да 1953 у Сав. Арміі.

**ГО́ЛЬНЕЎ** Дзмітрый Цімафеевіч (8.11.1913, в. Хлясніна Смаленскага р-на — 2.3.1985), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1940. Скончыў Смаленскі пед. ін-т (1941). З 1938 на пед. рабоце. У партызанах з жн. 1941: камісар атрада, у ліп. 1942 — вер. 1943 *партызанскай брыгады 16-й Смаленскай.* У 1943—75 на парт. і пед. рабоце.

**ГО́МЕЛЬ,** горад, цэнтр Гомельскай вобл., порт на р. Сож. Вузел чыгунак (на Жлобін, Калінкавічы, Чарнігаў, Шчорс, Навазыбкаў) і аўтадарог. Аэрапорт. У 1940 у Г. 144,2 тыс. жыхароў. З першых дзён вайны Г.

бамбардзіравала ням. авіяцыя. Тысячы гараджан прымалі ўдзел у падрыхтоўцы абарончых збудаванняў. Прадпрыемствы Г. пачалі выпуск мінамётаў, мін, ручных гранат, рамонт танкаў. З 16.7.1941 на працягу месяца ў Г. знаходзіўся ЦК КП(б)Б. У горадзе была створана школа па паскоранай падрыхтоўцы груп для барацьбы ў тыле ворага. У жн. 1941 была праведзена эвакуацыя прамысловага абсталявання і насельніцтва. Баявыя дзеянні на гомельскім напрамку разгарнуліся ў ліп. 1941 з пачаткам Смаленскай бітвы 1941. 12—19.8.1941 пад Г. войскі 21-й арміі (ген.-маёр В. М. Гардоў) Цэнтр. фронта і апалчэнцы *Гомельскага палка народнага апалчэння* вялі жорсткія баі (гл. *Гомеля абарона 1941*), якія дапамаглі затрымаць рух ворага наперад, садзейнічалі выхаду шэрагу сав. часцей з акружэння. 19.8.1941 Г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія на 80% разбурылі горад, у т. л. вял. частку прамысловых прадпрыемстваў, загубілі ў Г. і раёне 135 822 чал. Гітлераўцы стварылі ў горадзе 5 лагераў смерці і 6 аддзяленняў, у якіх знішчылі 100 тыс. ваеннапалонных і мірных жыхароў. Дзейнічалі Гомельскія парт. і камсам.-маладзёжнае падполлі, падпольныя абком і гарком КП(б)Б, абком і гарком ЛКСМБ (гл. адпаведныя артыкулы), партыз. фарміраванні *Гомельскага партызанскага злучэння,* а таксама партыз. брыгада «Уперад», асобны атрад «Другія», групы «Дружба», «Бывалыя» (гл. адпаведныя артыкулы), якія не ўваходзілі ў партыз. злучэнне, выдавалася падп. газ. *«Гомельская праўда»*. 26.11.1943 горад вызвалены войскамі 4-й стралк. дывізіі (палк. Дз. Дз. Вераб'ёў) 25-га стралк. корпуса, 115-га УРа (ген.-маёр Ф. П. Пічугін) 11-й арміі, 102-й стралк. дывізіі (ген.-маёр А. М. Андрэеў) 29-га стралк. корпуса 48-й арміі Бел. фронту ў ходзе *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943*. 23 вайсковым часцям і злучэнням, якія вызначыліся ў баях за вызваленне горада, нададзены ганаровыя найменні «Гомельскіх» (гл. *Гомельскія вайсковыя злучэнні і часці).* У горадзе з 7.12.1943 да 10.4.1944 знаходзіўся штаб Бел. фронту. У Г. брацкія магілы сав. воінаў, партызан, падпольшчыкаў, ахвяр фашызму, нар. апалчэнцаў, на якіх пастаўлены помнікі; помнікі камсамольцам і партызанам, нар. апалчэнцам, рабочым вагонарамонтнага з-да і шклозавода, дрэваапрацоўчага камбіната, з-да «Гомсельмаш», якія загінулі ў барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі. У гонар воінаў-вызваліцеляў насыпаны курган Славы, устаноўлены мемар. дошкі падпольшчыкам, партызанам, землякам — Героям Сав. Саюза. Працуе абл. краязнаўчы музей. *Н. У. Капранава.*

**ГО́МЕЛЬСКАЕ КАМСАМО́ЛЬСКА-МАЛАДЗЁЖНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з 20.8.1941 да 26.11.1943 у Гомелі пад кіраўніцтвам *Гомельскага падпольнага гаркома КП(б)Б, Гомельскага падпольнага абкома ЛКСМБ, Гомельскага падпольнага гаркома ЛКСМБ.* Аб'ядноўвала 16 падп. камсам.-маладзёжных арг-цый і груп, больш за 140 чал. З першых дзён фаш. акупацыі Гомеля вял. работу па арганізацыі камсамольцаў і моладзі на барацьбу супраць ням.-фаш. захопнікаў праводзіў створаны ў жн. 1941 падп. гарком ЛКСМБ. Сакратар гаркома А. Л. *Ісачанка,* які знаходзіўся ў партыз. атрадзе «Бальшавік», хадзіў у горад, стварыў камсам.-маладзёжныя падп. групы, даваў ім канкрэтныя заданні, займаўся разведкай. У тыле ворага былі пакінуты таксама члены бюро гаркома камсамола С. П. Купцоў і Ф. П. *Котчанка,* якія выконвалі заданні па наладжванню сувязі з гомельскімі камсамольцамі, далучалі юнакоў і дзяўчат да падп. барацьбы з акупантамі. У ліку першых пачала дзейнічаць група І. І. Жалезнякова. З канца жн. 1941 дзейнічалі групы на чале з камсамольцамі У. П. Кавалёвым і Л. А. Кавалёвай. У вер.—ліст. 1941 створаны арг-цыі і групы на чале з Г. Л. Кірыкавай, М. І. Панчанкам, В. Л. Радзьковай, Л. В. Семяноўскай і інш. Камсамольцы Н. Р. Акуліч, К. М. Бондарава, С. А. Зелянкоў, В. С. Кіслова, З. В. Макарэвіч, В. Т. Мядзведзева, М. Ф. Таўкачоў, І. Б. Шылаў, В. І. Шышко і інш. змагаліся з акупантамі ў складзе груп, створаных камуністамі, выконвалі заданні парт. органаў, партыз. брыгад «Бальшавік», Добрушскай імя Сталіна, спецгруп «Уперад», «Радзіма». Падпольшчыкі дапамагалі парт. органам у стварэнні падп. груп, друкаванні і распаўсюджванні антыфаш. лістовак, зводак Саўінфармбюро, збіралі зброю, боепрыпасы, медыкаменты, былі сувязнымі, ратавалі і выводзілі з горада ў партыз. атрады сав. ваеннапалонных, удзельнічалі ў дыверсіях. Летам і восенню 1943 дыверсіі рабіла група на чале з камсамольцам І. І. Грыцавым, якая дзейнічала на ўскраіне Гомеля, гал. чынам у раёне б. саўгаса «Брылёва», у в. Прудок, дзе акупанты размясцілі склады з боепрыпасамі, ваен. маёмасцю, харчаваннем. Групай непасрэдна кіраваў падп. гарком камсамола. Сувязная гаркома Р. Караткевіч разам з падпольшчыкамі ўдзельнічала ў мініраванні чыгунак і шашэйных дарог, падпалах складоў, займалася разведкай. Камсамольцы Грыцаў, Б. С. Кесельман, А. П. Мамайка, І. Беткін, М. Колчын ускрывалі вагоны, якія прыбылі для разгрузкі, і выносілі боепрыпасы, амуніцыю, харчаванне. У вер. 1943 яны ўзарвалі бензасклад, потым мост каля клінкернага з-да. У лют. 1942 члены камсам.-маладзёжнай групы У. П. Кавалёва падпалілі дрэваапрацоўчы цэх, дзе рамантавалася ваен. тэхніка ворага. Былі знішчаны абсталяванне, матэрыялы, машыны. З лета 1943 група Кавалёва атрымлівала міны і ўзрыўчатку з партыз. атрада «Бальшавік». Падпольшчыкі ўзарвалі чыг. мост на абводным пуці, аўтамашыну з гітлераўскімі афіцэрамі, эшалон з жывой сілай і тэхнікай праціўніка, падпалілі ф-ку па вырабу цурак для запраўкі генератарных аўтамашын, знішчалі гітлераўцаў і іх прыслужнікаў. Дыверсіі ў горадзе рабілі камсам.-маладзёжныя групы, якія ўзначальвалі Г. І. Бярковіч і Радзькова. 31.8.1943 Е. В. Гарадкова на ст. Гомель замініравала варожы эшалон, пры ўзрыве якога згарэла 25 цыстэрнаў з бензінам.

**Група Жалезнякова** І. І. дзейнічала на Гомельскім чыг. вузле з канца жн. 1941 да вер. 1943. Налічвала 35 чал. Першымі ў яе ўвайшлі камсамольцы — навучэнцы 6-й чыг. школы Гомеля: Іван Жалезнякоў і яго сёстры Вольга, Марыя і Алена, П. Сцепанцоў, К. Давыдовіч, М. Мартынаў, Л. Радзевіч. Камсамольцы запісвалі па радыёпрыёмніку зводкі Саўінфармбюро і распаўсюджвалі іх сярод насельніцтва. У канцы 1941 узарвалі паравоз на ст. Гомель-Гаспадарчы. У чэрв. 1942 наладзілі сувязь з Гомельскім падп. гаркомам ЛКСМБ і партыз. атрадам імя Шчорса, выконвалі іх заданні. Жалезнякоў, Сцепанцоў, Мартынаў, Радзевіч, М. Табанькоў, уладкаваўшыся рабочымі на чыгунцы, збіралі звесткі пра ваен. эшалоны, якія праходзілі, графікі руху цягнікоў. Пад выглядам абмену рэчаў на прадукты сёстры Жалезняковы і інш. падпольшчыцы заходзілі ў размяшчэнне вайсковых часцей, запаміналі іх нумары, роды войск, сістэму каравульнай службы, узбраенне і інш. Летам 1943 камсамольцы на чале з Жалезняковым узарвалі тэлефонна-тэлеграфны трансфарматар, Радзевіч, Мартынаў і Табанькоў вывелі са строю 3 такарныя станкі ў механічным цэху паравознага дэпо, на некалькі дзён сарвалі рамонт паравозаў і вагонаў. У пач. вер. 1943 Сцепанцоў і інш. падпольшчыкі падарвалі варожы эшалон, вывелі са строю паравоз і знішчылі 11 вагонаў з аўтамашынамі.

У барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі загінулі З. П. Баравікова, У. К. Барушкаў, І. Беткін, М. А. Губанаў, А. П. Гулянкоў, К. М. Давыдовіч, І. І. Жалезнякоў, К. К. Жылінскі, С. А. Зелянкоў, Р. Р. Злотнікаў, Л. А. Кавалёва, У. П. Кавалёў, В. К. Кажамякін, У. А. Казлоў, М. Колчын, Ф. М. Марозаў, І. Пісьменнікаў, С. В. Радзькоў, П. П. Сцепанцоў, М. Ф. Талкачоў, М. А. Харкоў, І. Б. Шылаў, Р. У. Ярыгін, У. Ф. Ясінскі. Многія падпольшчыкі ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР. А. Л. Ісачанку і Ф. П. Котчанку прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Імем Жалезнякова названа вуліца ў Гомелі, на будынку школы, дзе ён вучыўся, устаноўлена мемар. дошка.

*Л. В. Аржаева.*

**ГО́МЕЛЬСКАЕ ПАРТЫЗА́НСКАЕ ЗЛУЧЭ́ННЕ.** Пачало складвацца ў ліст.

1942, дзейнічала да вер.— ліст. 1943. Камандзір сакратар *Гомельскага падпольнага абкома КП(б)Б* І. П. *Кожар*, нач. штаба сакратар Гомельскага падп. гаркома КП(б)Б Е. І. *Барыкін*. З першых дзён акупацыі Гомельскі падп. абком КП(б)Б арганізаваў 2 парт. цэнтры для аператыўнага кіраўніцтва партыз. рухам у паўн. і паўд. раёнах вобласці. Іх узначалілі (да канца 1942) сакратары абкома КП(б)Б А. А. *Куцак* (паўн. раёны) і Кожар (паўд. раёны). З мэтай кіраўніцтва баявой дзейнасцю партыз. атрадаў падп. абком КП(б)Б арганізоўваў штабы. У ліп.— вер. 1942 дзейнічаў штаб паўн. групы партыз. атрадаў. У ліст. 1942 пры Гомельскім падп. абкоме КП(б)Б створаны штаб партыз. атрадаў паўд. групы, які аб'яднаў атрады, што дзейнічалі ў паўд. раёнах вобласці, і некалькі дыверсійных і арганізатарскіх груп, якія прыбылі з сав. тылу. 5.2.1943 штаб партыз. атрадаў паўд. групы перайменаваны ў штаб кіраўніцтва партыз. атрадамі. У сак.— крас. 1943 яму былі падпарадкаваны ўсе партыз. фарміраванні, якія дзейнічалі на тэр. вобласці.

Яднала: 13 партыз. брыгад — 1-ю Буда-Кашалёўскую, 1-ю Гомельскую, 8-ю Рагачоўскую, 10-ю Журавіцкую, «Бальшавік», Добрушскую імя Сталіна, «Жалязняк», імя Панамарэнкі, імя Чапаева, імя Шчорса, Лоеўскую «За Радзіму», «Мсцівец», Рэчыцкую імя Варашылава, 1 полк — 255-ы, 2 асобна дзейныя атрады — 108-ы імя Катоўскага, імя Кірава (гл. адпаведныя артыкулы); агульная колькасць 16,3 тыс. партызан. На тэр. Гомельскай вобл. дзейнічалі таксама партыз. фарміраванні, якія не ўваходзілі ў склад злучэння: брыгада «Уперад», атрад «Другія», групы «Дружба», «Бывалыя» (гл. адпаведныя артыкулы), агульная колькасць 872 партызаны. Партызанам Барыкіну, А. Л. *Ісачанку*, П. І. *Кавалёву*, Кожару, Ф. П. *Котчанку*, Ф. Я. *Кухараву*, Э. В. *Лаўрыновічу*, М. А. *Міхайлашаву* прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

**ГО́МЕЛЬСКАЕ ПАРТЫ́ЙНАЕ ПАДПОЛЛЕ́.** Дзейнічала з 20.8.1941 да 26.11.1943 у Гомелі і прыгарадзе пад кіраўніцтвам *Гомельскага падпольнага абкома КП(б)Б* і *Гомельскага падпольнага гаркома КП(б)Б*. Да лета 1943 аб'ядноўвала больш за 40 падп. арг-цый і груп, у т. л. арг-цыю на паравозавагонарамонтным з-дзе і групу Ц. С. *Барадзіна*, больш за 400 чал. У першыя дні ням.-фаш. акупацыі работу па кансалідацыі патрыятычных сіл, устанаўленню сувязі з камуністамі і камсамольцамі праводзілі Барадзін і Р. І. *Цімафеенка*, якіх ЦК КП(б)Б пакінуў у тыле ворага для падп. работы. Яны наладзілі кантакты з камуністамі і камсамольцамі чыг. вузла, паравозавагонарамонтнага, падшыпнікавага з-даў, лесакамбіната, інш. прамысловых прадпрыемстваў. У жн.— вер. 1941 актыўную барацьбу супраць акупантаў вялі каля 20 груп, у т. л. групы камуністаў Ц. В. Блінкова, Л. І. Дзегірэўскага, М. Д. Жызнеўскага, Е. І. Каленікава, Р. М. Каралёва, В. І. Сухава і інш. Яны разгарнулі паліт. работу сярод насельніцтва, распаўсюджвалі сав. газеты і зводкі Саўінфармбюро, далучалі патрыётаў да барацьбы з захопнікамі, уладкоўвалі сваіх людзей у акупацыйны апарат, здабывалі ўзоры пропускаў, рабілі дыверсіі. У сярэдзіне ліст. 1941 у сувязі з карнымі дзеяннямі акупантаў Гомельскі падп. гарком КП(б)Б разам з партыз. атрадам «Бальшавік» перабазіраваўся з Гомельскага р-на ў Чачэрскія лясы, у Гомелі быў створаны аператыўны падп. цэнтр у складзе Барадзіна (кіраўнік), Цімафеенкі, І. Б. Шылава, якія каардынавалі работу падп. груп, асобных падпольшчыкаў. 8.5.1942 фашысты арыштавалі Барадзіна, Шылава, дзесяткі актыўных падпольшчыкаў. Усе яны загінулі ў фаш. засценках. У перастрэлцы з ворагам у чэрв. 1942 загінуў Цімафеенка. Нягледзячы на цяжкія ўдары, барацьба патрыётаў працягвалася. Гомельскі падп. гарком КП(б)Б з дапамогай А. Л. *Ісачанкі*, Г. Л. Кірыкавай, Ф. П. *Котчанкі*, С. П. Кунцова, В. К. Цясёлкіна аднавілі сувязь з многімі патрыётамі. Актыўна дзейнічалі падпольшчыкі Гомельскага чыг. вузла. Работнік ст. Гомель Ф. С. Варонін, пакінуты ў падполлі гаркомам партыі, далучыў да барацьбы з акупантамі жонку М. А. Вароніну, сына Пятра, І. Я. Шапіру (у падполлі Пісарэнка). У дом Вароніных партызаны прыносілі антыфаш. літаратуру, зброю, узрыўчатку, міны. Члены групы Вароніна распаўсюдзілі каля 3 тыс. экз. лістовак і зваротаў падп. гаркома КП(б)Б, летам 1942 узарвалі некалькі цыстэрнаў з бензінам. У паравозным дэпо падп. групу стварыў А. Ц. Брыкс, пакінуты ў падполлі Чыгуначным РК КП(б)Б. У групу ўвайшлі рабочыя М. Ц. Брыкс, Я. А. Емяльянаў, Я. І. Хоміч і інш. Яны выводзілі са строю паравозы, зрывалі графікі іх рамонту, летам 1942 праз П. Ф. Вароніна ўстанавілі сувязь з гаркомам партыі, пачалі атрымліваць узрыўчатку і міны. Падпольшчыкі ўзарвалі 4 паравозы, дзесяткі цыстэрнаў з бензінам, вагон з авіяматорамі, вывелі са строю трансфарматарную будку, падпалілі склад з гаручым і змазачнымі матэрыяламі. На вузле таксама дзейнічалі падп. групы І. І. Жалезнякова (гл. *Гомельскае камсамольска-маладзёжнае падполле*), Дзегірэўскага, В. С. Сідарука, члены якіх правялі шэраг буйных дыверсій на чыгунцы. У вял. памерах зрывалі варожыя перавозкі рабочыя — члены падп. арг-цыі на паравозавагонарамонтным з-дзе. 10 падп. груп стварылі камуністы Навабеліцы. На тлушчакамбінаце, дзе гітлераўцы размясцілі майстэрню па рамонту танкаў і інш. тэхнікі, патрыёты на чале з Каленікавым вывелі са строю некалькі варожых танкаў, знішчылі 40 т мясапрадуктаў. Падпольшчыкі і рабочыя лесакамбіната на чале з Р. М. Каралёвым знішчылі лесаматэрыял, падрыхтаваны для будаўніцтва пераправаў цераз р. Сож, арганізавалі канспіратыўную кватэру гаркома партыі, перадавалі разведданыя партызанам. Актыўна дзейнічалі ў Навабеліцы падп. групы камуніста А. В. Мацвеенкі, настаўніка Ф. С. Кусціна, рабочага В. Ц. Папова і інш. У ноч на 14.8. 1943 партызаны Добрушскай брыгады імя Сталіна з дапамогай падпольшчыкаў узарвалі ў Гомелі турбіну электрастанцыі, у вер.— тэлефонную станцыю, казарму, знішчылі склады з боепрыпасамі і інтэнданцкую маёмасць. Па заданню партыз. разведкі падпольшчыца Н. Р. Акуліч устанавіла міну каля варожай зенітнай батарэі. Выбухам былі знішчаны 2 зенітныя гарматы і шмат снарадаў. Звесткі разведкі падпольшчыкаў перадаваліся праз сувязных у падп. парт. органы, штабы партыз. брыгад «Бальшавік», «Уперад» і інш. Важную інфармацыю атрымлівалі ад Б. М. Нікіфарава, які працаваў перакладчыкам на гар. біржы працы. Па заданнях спец. армейскіх чэкісцкіх груп падпольшчыкі С. С. Бекарэвіч, К. М. Бондарава, І. А. Дудараў, Н. Я. Каешка, В. Я. Новікава, Н. Ф. Рудзянкова, Н. К. Сувалаў, І. Дз. Цярэшкін, М. Ф. Талкачоў і інш. збіралі звесткі аб колькасці і ўзбраенні вайсковых часцей, абарончых збудаванняў, складах з боепрыпасамі, зенітных устаноўках. Выкарыстоўваючы паведамленні падпольшчыкаў, сав. лётчыкі бамбілі скопішчы варожых эшалонаў і ваен. аб'екты ў горадзе, нанеслі ўдар па штабу ням. дывізіёна ў горадзе (чэрв. 1943), знішчылі арт. склады ў Навабеліцы. У кастр. 1943 Н. М. Трасцінская і інш. падпольшчыкі арганізавалі ўцёкі з лагера вял. групы ваеннапалонных камандзіраў Чырв. Арміі. Па заданню спецгрупы П. І. Кузяева разведданыя ў горадзе і прылеглых да яго населеных пунктах збіралі В. І. Блескіна, Ф. С. Варонін, М. А. Губанаў, З. В. Макарэвіч, К. К. Жылінскі, В. І. Шышко і інш. Па іх звестках сав. авіяцыя рабіла налёты на скопішчы варожых войск і ваен. тэхнікі ў Гомелі, Рэчыцы, Жлобіне. У час выгнання гітлераўцаў у ліст. 1943 падпольшчыкі сачылі за мініраваннем прадпрыемстваў і будынкаў у горадзе, сав. воіны з іх дапамогай размініравалі і прадухілілі знішчэнне многіх будынкаў.

**Арганізацыя на паравозавагонарамонтным заводзе** дзейнічала з снеж. 1941 да лют. 1943. З канца 1941 да чэрв. 1942 на з-дзе вяла барацьбу супраць акупантаў група на чале з камсамольцам Л. М. Каваль-

скім, якая аб'яднўвала 12 чал., у т. л. камсамольцаў в. Сямёнаўка. У студз. 1942 разгарнула барацьбу група М. В. Піваварава (М. З. Бетанаў, Г. Л. Дзятлаў, С. В. Кандрацьеў, Я. К. Слепянкоў, У. Ф. Ясінскі і інш.), да мая 1942 у ёй было 15 патрыётаў, да снеж. 1943 — каля 40 чал. Спачатку падпольшчыкі дзейнічалі ў кантакце з групай Ц. С. Барадзіна. Летам 1942 з Піваваравым устанавіў сувязь сакратар Гомельскага падп. РК ЛКСМБ А. Л. Ісачанка. Падпольшчыкі аб'ядноўваліся ў групы па 3—5 чал., кожны ведаў толькі членаў сваёй групы. Была адпрацавана сістэма сувязі паміж кіраўніцтвам арг-цыі і групамі. Падпольшчыкі распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро (радыёпрыёмнікі былі ўстаноўлены на кватэрах у Кандрацьева, братоў А. У. і Р. У. Ярыгіных), сыпалі ў буксы пясок і металічную стружку, псавалі паравозныя катлы, знішчалі і хавалі каштоўныя дэталі і каляровыя металы, на паравозы і вагоны ў час рамонту ставілі сапсаваныя дэталі. У маі 1942 сапсавалі паравы молат у кавальскім цэху, Піваравау у паравозазборачным цэху вывеў са строю каштоўны станок-цялежку. Летам 1942 Бетанаў і Кандрацьеў разбілі карусельны станок. Восенню 1942 Я. Р. Мерзаў і А. У. Ярыгін разбурылі зварачны агрэгат і абагравальную сістэму ў зборачным цэху. Вясной 1942 Дзятлаў, Слепянкоў і інш. ўзарвалі варожы эшалон на ст. Гомель-Пасажырскі. У гонар перамогі сав. войск пад Сталінградам у пач. лют. 1943 падпольшчыкі ўзнялі над будынкам з-да чырвоны сцяг з лозунгам: «Няхай жыве Чырвоная Армія!». 7.2.1942 гітлераўцы арыштавалі ўсё кіруючае ядро падп. арг-цыі, а потым кінулі ў засценкі яшчэ каля 200 падпольшчыкаў і рабочых з-да. 22.2.1943 пасля катаванняў патрыётаў вывезлі ў Назараўскі лес і расстралялі.




**Група Барадзіна Ц. С.** дзейнічала ў Гомелі з канца жн. 1941 да мая 1942. Налічвала 30 чал.: Ц. С. Барадзін (кіраўнік), Р. І. Цімафеенка (нам. кіраўніка), І. Б. *Шылаў*, Л. І. Шулькін, В. Т. і Т. М. Мядзведзевы, А. Т., Л. Т. і М. А. Барадзіны, А. Л. Левін, Н. Л. Раманчыкава, Н. Я. Карпенка, В. С. Кіслова, Н. С. Жалезнякоў, К. С. Пупынін і інш. Па заданню падп. гаркома партыі Барадзін уладкаваўся на работу ў друкарню, дзе наладзіў друкаванне антыфаш. лістовак і адозваў, бланкаў, пропускаў, пасведчанняў і інш. дакументаў, зрабіў некалькі пячатак. Маці Барадзіна Марыя Аляксандраўна і яго сёстры Антаніна і Лідзія дастаўлялі іх Цімафеенку і Шылаву, якія распаўсюджвалі лістоўкі сярод жыхароў горада. Члены групы ўстанавілі сувязь з сав. ваеннапалоннымі, што знаходзіліся ў фаш. лагеры (дулаг-121), перадавалі ім ежу, газеты, лістоўкі, арганізоўвалі ўцёкі. У вер. 1941 у час падрыхтоўкі дыверсіі на элеватары быў арыштаваны і расстраляны падпольшчык Шулькін. У кастр. 1941 Барадзін, Цімафеенка, Шылаў і Жалезнякоў узарвалі майстэрню па рамонце варожых танкаў у Лібаўскім гарадку, разам з партызанамі падпалілі склад гаручага ў Навабеліцы. 4.11.1941 Шылаў у форме ням. афіцэра пранікнуў у рэстаран і падлажыў там міну. Выбухам былі знішчаны дзесяткі фаш. афіцэраў. 8.5.1942 на канспіратыўнай кватэры былі схоплены Ц. С. Барадзін, Шылаў, В. А. Андрэенка, П. І. Чысцякова і інш. Гітлераўцы падверглі патрыётаў жорсткім катаванням і здзекам. Аб мужнасці і стойкасці сав. патрыётаў у фаш. турме сведчаць перададзеныя на волю лісты Барадзіна і Шылава.

У барацьбе з ням.-фаш. акупантамі загінуў кожны трэці падпольшчык, у т. л. М. Алімаў, І. А. Анкудзінаў, В. А. Андрэенка, Ц. С. Барадзін, А. Л. Барэйша, М. З. Бетанаў, Ц. В. Блінкоў, С. М. Будніцкі, А. І. Валковіч, П. Ф. Варонін, Я. І. Веслер, Р. П. Гапееў, Л. І. *Дзегірэўскі*, Г. Л. Дзятлаў, В. Жалезнякоў, Н. С. Жалезнякоў, М. Д. Жызнеўскі, М. Зайцаў, Е. І. Каленікаў, С. В. Кандрацьеў, Р. М. Каралёў, І. М. Караткевіч, Н. Я. Карпенка, В. С. Кіслова, Ф. С. Кусцін, Ф. М. Марозаў, М. К. Міненка, А. Ц. Мішчанка, Д. Я. Навумава, А. К. Новікаў, І. М. Падвойскі, П. Папкоў, М. В. Піваварау, І. Пупейка, К. С. Пупынін, М. І. Сачыўка, В. С. Сідарук, А. С. Скарына, Я. К. Слепянкоў, М. Я. Сударыкаў, В. І. і М. І. Сухавы, В. С. і Л. С. Угрумавы, Я. І. Хоміч, Р. І. Цімафеенка, В. К. Цясёлкін, П. І. Чысцякова, Л. І. Шулькін, І. Б. Шылаў, І. С. Язерская, Р. У. Ярыгін, У. Ф. Ясінскі. Многія падпольшчыкі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі СССР. Арганізатарам і кіраўнікам падполля І. П. *Кожару*, Е. І. *Барыкіну*, Ц. С. Барадзіну прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Імёнамі герояў падполля названы вуліцы, школы, цеплаходы. У Гомелі ў гонар падпольшчыкаў устаноўлены помнікі і мемар. дошкі, на пл. Працы запалены Вечны агонь.

*Л. В. Аржаева.*

**ГО́МЕЛЬСКА-РЭ́ЧЫЦКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1943**, наступальная аперацыя войск Бел. фронту (ген. арміі К. К. *Ракасоўскі*) 10—30 лістапада.

У аперацыі ўдзельнічалі арміі: 50-я (ген.-лейт. І. В. *Болдзін*), 3-я (ген.-лейт. А. В. *Гарбатаў*), 63-я (ген.-лейт. У. Я. *Калпакчы*), 48-я (ген.-лейт. П. Л. *Раманенка*), 65-я (ген.-лейт. П. І. *Батаў*), 11-я (ген.-лейт. І. І. *Фядзюнінскі*), 61-я (ген.-лейт. П. А. *Бялоў*) і 16-я паветр. (ген.-палк. С. І. *Рудэнка*). У 2-й пал. кастрычніка войскі левага крыла Бел. фронту, развіваючы наступленне на гомельска-бабруйскім напрамку, авалодалі плацдармам на зах. беразе Дняпра ў раёне Лоева і стварылі спрыяльныя ўмовы для правядзення Г.-Р. а. Задача аперацыі — разграміць гомельска-рэчыцкую групоўку праціўніка, вызваліць міжрэчча Сажа і Дняпра, заняць зручныя пазіцыі на зах. беразе Дняпра. Сав. войскам процістаялі 2-я, частка сіл 9-й і 4-й ням. армій групы армій «Цэнтр»; у ходзе аперацыі пад Жлобін і Рагачоў з інш. участкаў фронту вораг перакінуў 7 пях. дывізій і брыгаду СС.

Войскі левага крыла Бел. фронту 10 ліст. пачалі наступленне на напрамку гал. ўдару з плацдарма на зах. беразе Дняпра каля Лоева сіламі 48-й, 65-й і 61-й армій і ўведзеных у бітву на другі дзень 2 танк. і 2 кав. карпусоў у напрамку на Рэчыцу і часткай сіл — на Калінкавічы. Ударам у тыл праціўніка войскі фронту 15 ліст. перарэзалі чыг. Гомель — Калінкавічы, 18 ліст. вызвалілі Рэчыцу (48-я і 65-я арміі, 1-ы гвардз. танк. корпус), 25 ліст. фарсіравалі Бярэзіну і захапілі плацдарм на Пд ад Жлобіна, абышлі Гомель з З. Войскі правага крыла фронту пачалі 22 ліст. наступленне сіламі 50-й і 3-й армій, 25—26 ліст. вызвалілі Прапойск, Карму, Журавічы, выйшлі да Дняпра ў раёне Новага Быхава, ахапіўшы Гомель з Пн. 26 ліст. войскі 11-й і 48-й армій пасля жорсткіх баёў вызвалілі Гомель. У час аперацыі партызаны Гомельскага, Палескага і Магілёўскага злучэнняў узмацнілі баявыя дзеянні, паралізавалі рух на чыг. Жыткавічы — Калінкавічы, Калінкавічы — Жлобін, Оўруч — Мазыр, перарэзалі чыг. Магілёў — Жлобін і не далі ворагу магчымасці перакінуць падмацаванні да Гомеля, перакрылі шляхі адступлення з Рэчыцы. Партызаны вызвалілі і ўтрымлівалі да падыходу сав. часцей 34 населеныя пункты і пераправу цераз Бярэзіну. У выніку Г.-Р. а. войскі Бел. фронту прарвалі абарону праціўніка ў палосе шырынёю 100 км, прасунуліся на З на 130 км, стварылі пагрозу паўд. флангу групы армій «Цэнтр», што ўскладніла яе ўзаемадзеянні з групай армій «Поўдзень». Злучэнні Бел. фронту дасягнулі рубяжа Чавусы, Новы Быхаў, на У ад Рагачова і Мазыра, на Пд ад Ельска. Тут фронт стабілізаваўся да 1944. Былі створаны спрыяльныя перадумовы для далейшага вызвалення Беларусі. 23 часцям і злучэнням, якія вызначыліся ў аперацыі, нададзены ганаровыя найменні «Гомельскіх», 22 — «Рэчыцкіх».

*У. І. Лемяшонак.*

**«ГО́МЕЛЬСКАЯ ПРА́ЎДА»,** газета, заснавана ў 1917 пад наз. «Известия Гомельского Совета рабочих, солдатских и крестьянских депутатов». З 1938 «Гомельская праўда». У час ням.-фаш. акупацыі орган Гомельскіх падп. абкома і гаркома КП(б)Б. Выдавалася па нядзелях з 1.5 да 20.11.1943 на бел. мове. Выпушчаны 31 нумар тыражом 800—1000 экз. кожны. Рэдактар М. І. *Пахомаў.* Пасля вызвалення выдаецца пад той жа назвай, орган Гомельскіх абкома і гаркома КП(б)Б, абл. і гар. Саветаў нар. дэпутатаў.

**ГО́МЕЛЬСКАЯ СТРАЛКО́ВАЯ ДЫВІЗІЯ** гвардзейская ордэна Леніна, Чырванасцяжная, ордэна Суворава. Сфарміравана ў вер.— ліст. 1941 у Саратаўскай вобл. як 342-я стралк. дывізія ў складзе 3 стралк. і 1 арт. палкоў. Баявыя дзеянні пачала 24.12.1941 у Тульскай вобл. ў складзе 61-й арміі Бранскага фронту. У 1942—43 вяла абарончыя баі на Бранскім і Зах. франтах. Летам 1943 у складзе 3-й арміі вызначылася ў Курскай бітве і Арлоўскай аперацыі, пераўтворана ў 121-ю гвардз. стралк. дывізію (23.9.1943). Удзельнічала ў разгроме бранскай групоўкі ворага і ў складзе войск Бел. фронту — у *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943.* Дывізія 23.11.1943 фарсіравала Сож у раёне Кармы і разам з інш. злучэннямі 3-й арміі стварыла пагрозу акружэння ням.-фаш. войск у раёне Гомеля, што садзейнічала яго вызваленню. Вызначылася ў баях пад Гомелем, за што ўдастоена ганаровага найменння «Гомельскай» (26.11.1943), 4 яе воінам прысвоена званне Героя Сав. Саюза, у т. л. капітану М. Г. *Калінкіну.* Удзельнічала ў разгроме фаш. войск на Правабярэжнай Украіне, у Львоўска-Сандамірскай аперацыі, вызваленні Польшчы, Вісла-Одэрскай аперацыі, фарсіраванні Одэра, Берлінскай аперацыі. Баявыя дзеянні завяршыла ў Чэхаславакіі. Узнагароджана ордэнамі Чырв. Сцяга (7.2.1944), Суворава II ступені (9.8.1944) і Леніна (28.5.1945). Больш за 15 тыс. воінаў дывізіі ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР, 31 з іх удастоены звання Героя Сав. Саюза.

Камандзіры: падпалк., з 28.11.1941 палк. А. І. Папоў (вер. 1941 — ліст. 1942), палк. Г. І. Каначадзе (ліст. 1942— люты 1943), палк. М. К. Масленікаў (люты — сак. 1943), ген.-маёр Л. Д. Чарвоны (сак. 1943 — да канца вайны).

*М. І. Камінскі.*

**ГО́МЕЛЬСКІ АБЛАСНЫ́ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты 7.11.1919. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, размешчана ў 3 залах, 1250 экспанатаў асн. фонду, пл. 190 м². Экспануюцца матэрыялы пра абарону Гомеля ў 1941, нар. апалчэнне, вайсковыя злучэнні і часці, якія абаранялі горад, пра ўзнікненне і разгортванне падполля і партыз. руху ў вобласці: парт. і камсам. білеты, прабітыя асколкамі і кулямі, перадсмяротныя пісьмы пакараных смерцю падпольшчыкаў, лістоўкі, падп. газеты *«Гомельская праўда», «Зара камуны», «Партызан Гомельшчыны», «Партизанская правда», «Шлях сацыялізма»* і інш., узнагароды і асабістыя рэчы сакратароў Гомельскага і Палескага падп. абкомаў КП(б)Б І. Дз. *Вятрова,* І. П. *Кожара,* А. А. *Куцака,* Ф. М. *Языковіча,* падп. гаркома КП(б)Б Е. І. *Барыкіна,* партрэты і дакументы кіраўнікоў падполля і партыз. руху Ц. С. *Барадзіна,* А. Л. *Ісачанкі,* А. Дз. *Рудака* і інш., партызан і падпольшчыкаў, расказваецца пра подзвігі піянераў-герояў Г. Падабедава, В. *Сітніцы,* С. Раманенкі. Экспануюцца матэрыялы, прысвечаныя землякам — Героям Сав. Саюза П. У. *Гельман,* А. І. і П. І. *Лізюковым,* Б. А. *Царыкаву* і інш. Аб злачынствах ням.-фаш. захопнікаў у вобласці сведчаць шкляныя колбы з зямлёю і попелам 13 спаленых разам з жыхарамі вёсак, фатаграфіі злачынстваў і прылады катаванняў, дыярама «Азарыцкі лагер смерці» і інш. Пра вызваленне горада і вобласці ад гітлераўцаў расказваюць фатаграфіі баёў за вызваленне Гомеля, военачальнікаў, воінаў-вызваліцеляў, чыімі імёнамі названы вуліцы горада, і інш. Спецыяльныя стэнды прысвечаны земляку авіяканструктару двойчы Героя Сацыяліст. Працы П. В. Сухому і Маршалу Сав. Саюза К. К. *Ракасоўскаму.* У зале Перамогі прадстаўлены баявыя сцягі вайсковых злучэнняў і часцей, якім нададзены ганаровыя найменні «Гомельскіх», сцягі партыз. брыгады імя Чапаева, атрадаў імя Кірава і Фрунзе.

*І. І. Казлоў.*



Экспазіцыя, прысвечаная Вялікай Айчыннай вайне, у Гомельскім абласным краязнаўчым музеі.

**ГО́МЕЛЬСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ АБКО́М КП(б)Б.** Створаны *Цэнтральным камітэтам КП(б)Б* і працаваў пад яго кіраўніцтвам з 19.8.1941 да 26.11.1943. Дзейнічаў на тэр. Гомельскай вобл. Фарміраваў новыя і папаўняў створаныя раней падп. парт. к-ты; узначальваў *Жлобінскі падпольны міжрайком КП(б)Б, Гомельскі падпольны гарком КП(б)Б,* 13 падп. райкомаў [гл. *Раённыя падпольныя камітэты КП(б)Б*], якія аб'ядноўвалі 87 пярвічных парт. арг-цый, 1772 камуністаў у партыз. фарміраваннях. 9 райкомаў выдавалі газеты (гл. *Друк падпольны).* Стварыў і кіраваў *Гомельскім партызанскім злучэннем,* Гомельскай, Добрушскай, Жлобінскай, Кармянскай, Рэчыцкай гар. і Рэчыцкай раённай (гл. адпаведныя артыкулы), Рагачоўскай, Чачэрскай і інш. падп. арг-цыямі; праводзіў палітычную работу сярод насельніцтва, растлумачальную сярод салдат варожых фарміраванняў. Накіроўваў дзейнасць *Гомельскага падпольнага абкома ЛКСМБ.* Сакратары абкома КП(б)Б: І. П. *Кожар* [адначасова з снеж. 1942 упаўнаважаны ЦК КП(б)Б па Гомельскай вобл.], А. А. *Куцак* (да 12.11.1942); члены: Е. І. *Барыкін* [адначасова сакратар Гомельскага падп. гаркома КП(б)Б], А. Дз. *Рудак* (да 5.10.1943), А. Ф. Жданові́ч (6.7—2.10.1943). Друкаваны орган — газ. *«Гомельская праўда»;* выдаваў лістоўкі, адозвы, звароты, бюлетэні, зводкі Саўінфармбюро.

Для большай аператыўнасці кіраўніцтва і захавання ў выпадку правалу парт. органаў абком стварыў з свайго саставу парт. цэнтры ў паўн. і паўд. групах раёнаў. Паўночную групу ўзна-



Помнік у гонар Гомельскага падпольнага абкома КП(б)Б, Рэчыцкага падпольнага райкома КП(б)Б, Рэчыцкай партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава ў в. Гарноўка Рэчыцкага раёна.

чальваў Куцак (да ліст. 1942, базіраваўся ў партыз. атрадзе «Бальшавік»; гл. ў арт. *Партызанская брыгада «Бальшавік»*), паўднёвую — Кожар (базіраваўся ў Лоеўскім партыз. атрадзе «За Радзіму»; гл. ў арт. *Партызанская брыгада Лоеўская «За Радзіму»*). Пазней абком базіраваўся ў партыз. атрадзе імя Варашылава (гл. ў арт. *Партызанская брыгада Рэчыцкая імя К. Я. Варашылава*), з мая 1943 — у *партызанскім атрадзе імя С. М. Кірава.*

У гонар падп. абкома КП(б)Б, Рэчыцкага падп. РК КП(б)Б, Рэчыцкай партыз. брыгады імя Варашылава ў в. Гарноўка Рэчыцкага р-на ў 1968 пастаўлены абеліск.
*А. Дз. Рудак.*

**ГО́МЕЛЬСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ АБКО́М ЛКСМБ.** Створаны *Цэнтральным Камітэтам ЛКСМБ* і Гомельскім абкомам КП(б)Б да акупацыі Гомеля ням.-фаш. войскамі. Дзейнічаў з 19.8.1941 да 26.11.1943 на тэр. Гомельскай вобл. пад кіраўніцтвам ЦК ЛКСМБ і *Гомельскага падпольнага абкома КП(б)Б.* Узначальваў дзейнасць *Жлобінскага падпольнага міжрайкома ЛКСМБ, Гомельскага падпольнага гаркома ЛКСМБ,* 14 райкомаў (гл. *Раённыя падпольныя камітэты ЛКСМБ*), 253 тэрытарыяльныя, 59 пярвічных камсам. арг-цый у партыз. фарміраваннях, усяго каля 5 тыс. камсамольцаў. Сакратары абкома: А. Дз. *Рудак* (1-ы сакратар, чл. ЦК ЛКСМБ), А. А. *Бірукоў* (да 1.7.1943, адначасова сакратар Рагачоўскага падп. РК ЛКСМБ), А. Л. *Ісачанка* (аднагасова сакратар Гомельскага падп. гаркома ЛКСМБ, чл. ЦК ЛКСМБ да 8.10.1942, загінуў), Я. У. *Літвінаў* (да 17.11.1941, загінуў), І. Я. *Палякоў* (з 18.7.1942); члены: М. Ф. Юрскі (з 1.8 да 1.10.1942, загінуў), Я. Я. Квачоў (з 28.3.1943), У. Р. Хамянок (з 3.6.1943); інструктар А. І. Бабчонак (з 1.6 да 1.10.1943), лектар К. П. Ліхачоў (з 1.4.1943). Базіраваўся ў партыз. фарміраваннях у Гомельскім, Лоеўскім і Рэчыцкім р-нах.




Помнік у гонар Гомельскага падпольнага гаркома КП(б)Б і партызанскага атрада «Бальшавік» каля пасёлка Барэц Гомельскага раёна.

На тэр. вобласці працавалі ў падполлі чл. даваеннага складу Гомельскага абкома ЛКСМБ М. Ц. Рыцікаў (з 18.8.1941 да мая 1943, сакратар Кармянскага падп. РК ЛКСМБ) і настаўніца В. Л. Ганчарова (са жн. 1941 да ліст. 1943).
*Р. М. Шавяла.*

**ГО́МЕЛЬСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ АПЕРАТЫЎНЫ ЦЭНТР.** Дзейнічаў з ліст. 1941 да мая 1942 пад кіраўніцтвам *Гомельскага падпольнага абкома КП(б)Б* і *Гомельскага падпольнага гаркома КП(б)Б.* Створаны для забеспячэння парт. кіраўніцтва *Гомельскім партыйным падполлем, Гомельскім камсамольска-маладзёжным падполлем* і каардынацыі іх дзейнасці ва ўмовах узмоцненых карных акцый акупантаў. У яго ўвайшлі Ц. С. *Барадзін* (кіраўнік), Р. І. *Цімафеенка*, І. Б. *Шылаў.* Падп. аператыўнаму цэнтру былі перададзены паролі, адрасы явачных кватэр. Ен устанавіў сувязі з падп. групамі на падшыпнікавым з-дзе (кіраўнік камуніст В. І. Сухаў), лесакамбінаце (Ц. В. Блінкоў, Р. М. Каралёў), чыг. вузле (А. Ц. Брыкс, М. Д. Жызнеўскі), тлушчакамбінаце (камуніст Е. І. Каленікаў), паравозавагонарамонтным з-дзе (М. В. Піварараў), у пашпартным стале (М. Я. Заўгародні). Цэнтр накіроўваў дзейнасць падпольшчыкаў, паведамляў ім рашэнні Гомельскіх падп. абкома і гаркома КП(б)Б. Сувязь паміж падп. парт. органамі і аператыўным цэнтрам ажыццяўлялі А. М. Лысенка, В. І. Блескіна, М. Я. Сударыкаў, А. Ф. Болсун, Г. П. Харламава. У снеж. 1941 Гомельскі падп. гарком КП(б)Б даручыў аператыўнаму цэнтру падарваць адноўленую акупантамі электрастанцыю. Да вясны 1942 па ініцыятыве Шылава на электрастанцыі была створана падп. група, у якую ўвайшлі В. А. Андрэенка, П. І. Чысцякова, Р. П. Гапееў і інш. 8.5.1942 падпольшчыкі, у т. л. Шылаў і Барадзін, якія сабраліся на явачнай кватэры (вул. Камісарава, 14) для ўдакладнення плана дыверсіі, па даносу здраднікаў былі схоплены акупантамі. Усяго ў гэтыя дні ў горадзе былі арыштаваны 63 падпольшчыкі. 20.6.1942 Барадзін, Шылаў і іх таварышы пасля жорсткіх катаванняў расстраляны. Пазней загінуў Р. І. Цімафеенка.

**ГО́МЕЛЬСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ ГАРКО́М КП(Б)Б.** Дзейнічаў з 19.8.1941 да 26.11.1943 пад кіраўніцтвам *Гомельскага падпольнага абкома КП(б)Б.* З першых дзён акупацыі Гомеля падп. гарком устанавіў сувязь з камуністамі і камсамольцамі чыг. вузла, друкарні, паравозавагонарамонтнага і падшыпнікавага з-даў, лесакамбіната, інш. прадпрыемстваў і устаноў горада. Кіраваў *Гомельскім партыйным падполлем*, барацьбой працоўных Гомеля, арганізоўваў дапамогу партызанам разведкай, зброяй, медыкаментамі, узначальваў паліт. работу сярод насельніцтва. Накіроўваў дзейнасць *Гомельскага падпольнага гаркома ЛКСМБ.* Сакратары гаркома: Е. І. *Барыкін*, С. Ф. Антонаў (да 12.3.1943), А. М. Балхавіцін (12.3—26.7.1943); члены: А. Л. *Ісачанка* (да 8.10.1942, загінуў), А. А. *Куцак* (да 12.11.1942), С. І. *Касьянаў* (да сак. 1943), Балхавіцін (да 26.7.1943), Я. І. Рамбаеў (да 26.7.1943), І. С. Федасеенка (да 25.8.1943), В. В. *Юдзін* (25.12.1942—12.3.1943), А. М. Несцяровіч (12.3—26.7.1943), Г. Н. Эркін (з 12.3.1943), І. Ф. Гамарка, А. Р. Зубараў, В. М. Палянічка (усе трое з 7.10.1943). Знаходзіўся ў размяшчэнні партыз. атрада «Бальшавік», з кастр. 1943 — *партызанскай брыгады «Бальшавік»* Гомельскай вобл. Асн. месцы базіравання — урочышча Шчокатаўская дача (т. зв. Партызанская Крынічка) Гомельскага р-на, лясы ў наваколлі Чачэрска, каля в. Амелькаўшчына Хойніцкага і в. Узнаж Рэчыцкага р-наў.

У гонар падп. гаркома КП(б)Б і партыз. атрада «Бальшавік» ва ўрочышчы Партызанская Крынічка (недалёка ад пас. Барэц Гомельскага р-на) у 1967 пастаўлена стэла.
*Л. В. Аржаева.*

**ГО́МЕЛЬСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ ГАРКО́М ЛКСМБ.** Дзейнічаў з 22.8.1941 да 26.11.1943 пад кіраўніцтвам *Гомельскага падпольнага абкома ЛКСМБ* і *Гомельскага падпольнага гаркома КП(б)Б.* Кіраваў дзейнасцю падп. камсам.-маладзёжных арг-цый і груп Гомеля. Сакратары гаркома: А. Л. *Ісачанка* (да 8.10.1942, загінуў), С. П. Кушчоў (з 10.5.1943, в. а. сакратара з кастр. 1942); члены: Кушчоў, Ф. П. *Котчанка*, В. І. Блескіна (з 10.5.1943), Ф. І. Аксёнаў, К. Л. Данілін (абодва з 1.6.1943). Асн. база — у партыз. атрадзе «Бальшавік», з кастр. 1943 — у *партызанскай брыгадзе «Бальшавік».*
*Р. М. Шавяла.*

**ГО́МЕЛЬСКІ ПОЛК НАРО́ДНАГА АПАЛЧЭ́ННЯ.** Сфарміраваны 9—12.7.1941 паводле рашэння Гомельскага абкома КП(б)Б у адпаведнасці з пастановай ЦК КП(б)Б і СНК БССР ад 6.7.1941.

Складаўся з 3 стралк. батальёнаў і ўзводаў каменданцкага, гасп. і сувязі. Камандзір палка Ф. Я. *Уткін* (загінуў), камісар С. Р. Шчуцкі, нач. штаба А. І. Грынько. Кожны батальён (створаны ва ўсіх раёнах горада) складаўся з 3 рот і штаба з падраздзяленнямі ўпраўлення. На 1.8.1941 у 1-м батальёне (Цэнтральны р-н) было 472 чал., у 2-м (Чыгуначны р-н) — 360 чал., у 3-м — (Навабеліцкі р-н) — 309 чал. Паводле рашэння Бюро ЦК КП(б)Б ад 11.8.1941 аб умацаванні палка, ён быў дадаткова ўкамплектаваны і налічваў больш за 2300 чал. Полк знаходзіўся

ў рэзерве 21-й арміі (камандуючыя ген.-лейт. М. Р. *Яфрэмаў*, з жн. 1941 ген.-маёр В. Н. Гордаў) Цэнтр. фронту. Апалчэнцы ўдзельнічалі ў эвакуацыі з-даў і ф-к, вялі барацьбу з дыверсантамі, шпіёнамі, ахоўвалі прамысловыя аб'екты, лініі сувязі, будавалі абарончыя рубяжы. З 13 да 19 жн. разам з войскамі Чырв. Арміі полк вёў баі за Гомель: трымаў абарону на паўн. подступах да горада на рубяжы в. Сямёнаўка — пас. Гудок — чыг. ст. Уза — в. Рудзянец, перакрываў шашу Магілёў — Гомель і кантраляваў чыгунку Бабруйск — Гомель. Жорсткія баі апалчэнцы вялі каля в. Сямёнаўка і Пакалюбічы, якія некалькі разоў пераходзілі з рук у рукі, у раёне Навабеліцы (гл. *Гомеля абарона 1941*). 19 жн. пры падтрымцы танкаў і самалётаў ням.-фаш. войскі прарваліся ў горад. Апалчэнцы ўдзельнічалі ў жорсткіх вулічных баях. У ноч на 20 жн. абаронцы пакінулі Гомель. Многія апалчэнцы працягвалі барацьбу супраць ням.-фаш. захопнікаў у падполлі, партыз. атрадах, у Чырв. Арміі. У Гомелі магіла апалчэнцаў, на якой пастаўлены помнік, у р. п. Касцюкоўка помнік у гонар гомельскіх апалчэнцаў, у в. Пакалюбічы помнік у гонар абаронцаў Гомеля.

*У. І. Лемяшонак.*

**ГО́МЕЛЬСКІЯ ВАЙСКО́ВЫЯ ЗЛУЧЭ́ННІ І ЧА́СЦІ.** Загадамі ВГК ад 26.12. 1943 і Наркамата абароны СССР ад 27.5.1944 найменні «Гомельскіх» нададзены 20 злучэнням і часцям 11-й, 48-й, 16-й паветр. армій і 3 злучэнням авіяцыі далёкага дзеяння, якія найбольш вызначыліся пры вызваленні Гомеля (26.11.1943) у ходзе *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943*.

Часці і злучэнні, якім нададзены найменні «Гомельскіх»: 4-ы гвардз. бамбардзіровачны авіяц. корпус далёкага дзеяння (палк. С. П. Кавалёў), 121-я гвардз. стралк. дывізія (ген.-маёр Л. Д. Чарвоны), 96-я (палк. Ф. Г. Булатаў) і 283-я (палк. В. А. Канавалаў) стралк. дывізіі, 22-я арт. дывізія прарыву (палк. К. І. Каралёў), 5-я гвардз. бамбардзіровачная авіяц. дывізія (падпалк. П. Е. Цімашоў), 45-я (ген.-маёр В. І. Лебедзеў) і 301-я (палк. Ф. М. Федарэнка) бамбардзіровачныя авіяц. дывізіі, 273-я (ген.-маёр І. Я. Фёдараў) і 282-я (падпалк. Ю. М. Беркаль) знішчальныя авіяц. дывізіі, 57-я інж.-сапёрная брыгада (палк. І. А. Логінаў), 231-ы (маёр П. Ф. Паляшчук) і 253-і (падпалк. Б. І. Андрэеў) танк. палкі, 295-ы пушачны арт. полк (падпалк. Б. В. Падольскі), 584-ы знішчальны процітанк. арт. полк (падпалк. П. М. Ушакоў), 1179-ы знішчальны процітанк. арт. полк (палк. Г. Ю. Юсупаў), 1444-ы самаходны арт. полк (падпалк. Ф. П. Мячаў), 37-ы (падпалк. К. М. Астрэйка) і 92-і (падпалк. П. П. Цароў) гвардз. мінамётныя палкі, 481-ы мінамётны полк (падпалк. І. І. Дзербанёў), 506-ы асобны кулямётна-арт. батальён (маёр В. П. Фёдараў), 85-ы пантонна-маставы батальён (падпалк. П. І. Масік), 741-ы матарызаваны інж. батальён (маёр П. С. Федарчук). Войскам, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Гомеля, загадам ВГК ад 26.11. 1943 абвешчана падзяка, у Маскве дадзены салют 20 арт. залпамі з 224 гармат.

*М. І. Камінскі.*

**ГО́МЕЛЯ АБАРО́НА 1941.** Вялася войскамі 21-й арміі (ген.-лейт. М. Р. *Яфрэмаў*, ген.-маёр В. М. Гардоў) Цэнтр. фронту і апалчэнцамі 12—19 жн.; састаўная ч. *Смаленскай бітвы 1941*. У пач. жніўня ням. камандаванне перакінула ў раён Гомеля часці 2-й палявой арміі, з раёна Смаленска 2-ю танк. групу ген. Гудэрыяна; усяго пад Гомелем было 25 ням.-фаш. дывізій. 8—10 жн. праціўнік уклініўся ў абарону 21-й арміі, прарваў яе на ўчастку Крычаў — Прапойск — Рэчыца і выйшаў на подступы да Гомеля. Разам з ваен. камандаваннем мабілізацыю сіл на абарону горада ўзначалілі Гомельскія абком і гарком КП(б)Б. Сфарміраваны *Гомельскі полк народнага апалчэння*, вакол горада пракапана 28 км траншэй, створаны мінныя палі, на вуліцах пастаўлены барыкады. 12 жн. 2-я ням. армія пачала штурм горада, ням. авіяцыя без перапынку бамбіла яго. Выключна цяжкія баі ішлі ў раёне вёсак Сямёнаўка і Пакалюбічы, дзе разам з сав. воінамі абарону трымалі апалчэнцы і байцы асобнага батальёна Гомельскага гарнізона (камандзір маёр М. С. Ісаеў). Сав. войскі не толькі абараняліся, але і контратакавалі, 14 жн. выбілі ворага з Сямёнаўкі. Сустрэўшы ўпартае супраціўленне на гэтым напрамку, ням. войскі ўзмацнілі атакі на Гомель з ПнУ і з боку Добруша. У раёне Веткі гітлераўцы фарсіравалі Сож і захапілі гар. пасёлак, аднак сав. войскі затрымалі далейшы рух праціўніка і прычынілі яму значныя страты. Выкарыстаўшы перавагу ў сілах, 19 жн. ням. войскі ўварваліся ў Гомель. На левым беразе Сожа, у Навабеліцы, баі ішлі яшчэ трое сутак.

*Я. С. Паўлаў.*

**ГО́НДАРАВА,** вёска на тэр. Слуцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на Пн ад в. Ціхань Амговіцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 76 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 60 жыхароў, вёску (16 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1974 на магіле ахвяр фашызму пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ГО́РАЦКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з вер. 1941 да ліст. 1942 у Горках і Горацкім р-не. Налічвала 78 чал., у т. л. 15 камуністаў, 43 камсамольцы; 12 груп: Горацкая гарадская, кіраўнік П. Х. Кажура, у Горацкай МТС — С. І. Вараб'ёў, на льнозаводзе — П. Н. Савінаў, цагельным з-дзе — А. І. Трэмба, у в. Добрая — Д. Ф. Вайстрова, в. Альхоўка — В. В. Быкаў, в. Палёнка — Ф. М. Дзям'янаў, в. Чапялінка — Г. Р. *Ленчыкаў*, в. Рэкатка — Я. Е. Дзмітрыеў, в. Аўсянка — В. К. Асюцін, в. Губіна — М. Ф. Сапетаў, в. Тудараўка — Б. А. Шыманоўскі, з сак. 1942 В. В. Агаджанян. Падпольшчыкі вялі паліт. работу сярод насельніцтва, займаліся зборам разведданых, перадалі партызанам 95 вінтовак, 2 ручныя кулямёты, больш за 160 гранат, 1500 патронаў і інш. Спалілі хлебазавод, збожжа ў б. саўгасе «Горкі»; у 1942 вывелі са строю электрастанцыю Беларускага ін-та сельскай гаспадаркі. У ліп. 1942 арганізацыі быў нанесены цяжкі ўдар. У Горках і раёне арыштаваны 75 чал., з іх 54 павешаны і расстраляны. Астатнія падпольшчыкі пайшлі ў партызаны.

У барацьбе з ням.-фаш. акупан-



Помнік на магіле гомельскіх апалчэнцаў і магіле Ц. С. Барадзіна.

тамі загінулі: В. Андрэеў, В. К. Асюцін, В. І. Вараб'ёва, Т. І. Галазубаў, М. І. Грамакоўскі, А. П. Грыгор'еў, С. І. Дзенісенка, М. К. Дурнеў, М. С. Дуцько, Е. М. Жарыкаў, А. П. Кузняцоў, А. С. Магазіншчыкаў, І. С. Марчанка, В. П. Махлаеў, Я. Я. Папсуеў, А. А. Свістуноў, Я. М. Шардулёва, В. Р. Шчураў, П. І. Яцун. У 1960 у Горках пастаўлены помнік на брацкай магіле падпольшчыкаў і ахвяр фашызму, у 1966 у в. Тудараўка на магіле камсамольцаў-падпольшчыкаў — стэла.

*А. Б. Рогаў.*

**ГО́РВАЛЬСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1943**, разгром *партызанскай брыгадай «Жалязняк», партызанскай брыгадай імя П. К. Панамарэнкі* і *партызанскім атрадам 108-м імя Р. І. Катоўскага* ням.-фаш. часцей у в. Горваль Рэчыцкага р-на 19.11.1943. У ходзе *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943* пад ударамі 48-й і 65-й армій Бел. фронту, якія наступалі, ням.-фаш. войскі пачалі спешна адступаць у напрамку Бабруйска. Камандаванне Бел. фронту паставіла партызанам задачу 16 ліст. перакрыць дарогу з Рэчыцы на Горваль і Шацілкі і не прапусціць па ёй гітлераўскія часці, што адступалі.

Партызаны замініравалі дарогі, выкарысталі тактыку засад, нечаканыя атакі, у выніку праціўнік не змог прабіцца з Горваля на Шацілкі. Больш за суткі партызаны вялі бязлітасны бой з праціўнікам, які меў на ўзбраенні танкі, бронемашыны, артылерыю. Гітлераўцы пацярпелі вял. страты ў жывой сіле, пакінулі больш за 25 аўтамашын і вярнуліся ў Горваль, пачалі наспех наводзіць пераправу цераз Бярэзіну, каб на яе левым беразе злучыцца з гомельскай групоўкай. Атрымаўшы загад разграміць праціўніка, партызаны 19 ліст. ўварваліся ў Горваль, імклівай атакай прыціснулі гітлераўцаў да ракі. У паніцы фашысты ўплаў кінуліся цераз раку, але мала каму з іх удалося дасягнуць берага.

У гэтым баі партызаны знішчылі больш за 150 салдат і афіцэраў, захапілі ўсю тэхніку ворага, у т. л. 110 аўтамашын, гружаных боепрыпасамі, прадуктамі і абмундзіраваннем. Гітлераўцы неаднаразова спрабавалі пераправіцца цераз Бярэзіну і зноў захапіць Горваль, але партызаны моцна ўтрымлівалі свае пазіцыі на працягу 5 сутак да падыходу часцей Чырв. Арміі. У Горвалі ў памяць аб баявых дзеяннях партызан у 1977 пастаўлены абеліск.

*В. В. Гетаў.*

**ГО́РКІ**, горад, цэнтр Горацкага р-на, на р. Проня, пры ўпадзенні ў яе р. Паросіца. За 86 км на ПнУ ад Магілёва, чыг. станцыя на лініі Орша — Крычаў, аўтадарогамі звязаны з Оршай, Мсціславам, Магілёвам, в. Леніна. 22,5 тыс. жыхароў у 1939. 12.7.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты знішчылі ў Г. і раёне 2530 чал. У горадзе і раёне дзейнічалі *Горацкае партыйна-камсамольскае падполле*, Горацкія падп. райкомы КП(б)Б (28.8—2.12.1943) і ЛКСМБ (5.1—2.12.1943), партыз. брыгады 47-я «Перамога», 115-я Горацкая, «Звязда», асобныя атрады 2-і, 3-і, 112-ы Горацкі (гл. адпаведныя артыкулы). Вызвалены 26.6.1944 воінамі 329-га (падпалк. В. А. Гусеў) і 68-га стралк. палкоў 70-й стралк. дывізіі 33-й арміі 2-га Бел. фронту ў ходзе *Магілёўскай аперацыі 1944*. У Г. брацкія магілы сав. воінаў, падпольшчыкаў і ахвяр фашызму, магілы ахвяр фашызму і сав. ваеннапалонных, на якіх пастаўлены помнікі; помнікі Вызваленню і выкладчыкам, студэнтам, рабочым і служачым Бел. с.-г. акадэміі, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

*В. В. Гетаў.*

**«ГО́РНУНГ»** («Hornung»), «Л ю т ы», кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. акупантаў супраць партызан Слуцкага і Пінскага партыз. злучэнняў і цывільнага насельніцтва ў Ганцавіцкім, Жыткавіцкім, Чырвонаслабодскім, Ленінскім, Лунінецкім, Ляхавіцкім, Слуцкім, Старобінскім р-нах у лютым 1943.

Праводзілася сіламі 3 паліцэйскіх палкоў і 5 батальёнаў, у т. л. асобым батальёнам СС Дырлевангера. У загадзе на карную аперацыю адзначалася, што раён аперацыі — «...сапраўдная Савецкая рэспубліка», аднаўлены мясцовыя органы сав. улады, камендатуры, праводзіцца агульная мабілізацыя, у сувязі з чым усім сілам карнікаў загадваецца ў гэтым раёне знішчаць «усё, што можа служыць абаронай і жыллём», ператварыць раён «у нікім не занятую прастору, мясцовае насельніцтва расстраляць, жывёлу, збожжа і прадукты забраць».

Партызаны брыгад 300-й імя Варашылава, 27-й імя Чапаева, асобных атрадаў імя Кірава, імя Чапаева, імя М. Ц. Шыша і інш. у час барацьбы з карнікамі стварылі штаб партыз. злучэння (камандзір В. З. *Корж*), пад кіраўніцтвам якога некалькі дзён стрымлівалі націск гітлераўцаў, потым асн. сілы партызан выйшлі з-пад удараў фашыстаў. У час аперацыі «Г.» здзейснілі подзвіг браты І. С. і М. С. *Цубы*. 8—9 лют. карнікі ўчынілі масавае знішчэнне сав. грамадзян у Слуцку, цынічна зашыфраваўшы крывавую акцыю «тэрыторыя перасялення — яма № 1, яма № 2», потым пачалі прачэсваць міжрэчча Случ — Морач — Цна. Прачэсванне праводзілі баявыя групы «Норд» і «Вест», 7 каманд СД, мінамётны ўзвод, спец. фарміраванні — сотні пад камандаваннем эсэсаўцаў Бібля і Граафа, асобы батальён СС Дырлевангера. Спалілі вёскі, у т. л. ў Старобінскім р-не Капацэвічы (знішчылі 438 чал.), Заглиннае (128 чал.), Вялічкавічы (222 чал.), Старыя Вялічкавічы (187 чал.), Ямнае (84 чал.), в. *Беразінец, Дуброўна, Задоўба, Гондарава,* Капацэвіцкую МТС і інш. Усяго загубілі больш за 10 тыс. сав. грамадзян, захапілі 16 700 галоў жывёлы, 222,8 т збожжа. Працягам «Г.» была аперацыя *«Русалка»*.

*У. С. Пасэ, А. А. Фактаровіч.*

**«ГРАМАВЫ́ УДАР»** («Donnerkeil»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. акупантаў супраць партызан і цывільнага насельніцтва ў трохвугольніку чыгунак Віцебск — Полацк — Невель, на З ад р. Обаль (Віцебскі, Гарадоцкі, Мехаўскі, Полацкі, Сіроцінскі р-ны).

Праводзілася ў 2 этапы: «Г. ў. I» — 21—27.3.1943 і «Г. ў. II» — 28.3 — 2.4.1943 сіламі 201-й ахоўнай дывізіі, 4 ахоўных батальёнаў, батальёна з палка «Брандэнбург», танк. узводаў «Блюхер» і «Вернер» і прыдадзеных асн. сілам арт. і сапёрных падраздзяленняў. Кіраваў аперацыяй камандзір 201-й ахоўнай дывізіі ген.-маёр Якабі. Асноўныя сілы партызан (брыгады імя С. М. Кароткіна, 3-я Бел., 4-я Бел., «За Савецкую Беларусь») з баямі выйшлі з-пад удараў карнікаў.

У ходзе аперацыі карнікі загубілі 542 чал., пераважна цывільных жыхароў, вывезлі на катаржныя работы ў Германію 345 чал., захапілі дзесяткі тон прадуктаў, спалілі вёскі Вярэчча (знішчылі 30 чал.), Фралова (12 чал.) Гарадоцкага р-на, Шалкова Полацкага р-на, *Дражакі, Заазер'е, Задобрыя, Зуева, Лапакова, Чытавухі, Шчамілаўка, Ямішча.*

*У. С. Пасэ, А. А. Фактаровіч.*

**«ГРАНІ́Т»**, кодавая назва аперацыі бел. партызан па вываду са строю транспартных ліній акупантаў вясной і летам 1943. Распрацавана зімой 1942—43. План аперацыі зацверджаны 21.4.1943 начальнікам БШПР П. З. Калініным, аднак падрыхтоўка яе пачалася ў лют.— сак. 1943. Партызанам ставілася задача шляхам узгодненых дзеянняў сарваць перавозкі ворага да фронту, нанесці яму максімальныя страты. Пад кантроль партыз. атрадаў і брыгад замацоўваліся пэўныя ўчасткі чыгунак і шашэйных дарог.

Для падрыхтоўкі і правядзення аперацыі ў тыл ворага накіроўваліся прадстаўнікі БШПР — афіцэры сувязі і інструктары-мінёры. У партыз. фарміраваннях праводзілася навучанне байцоў і камандзіраў падрыўной справе, ствараліся новыя дыверсійныя групы, узводы, роты, некаторыя атрады амаль цалкам пераключаліся на правядзенне дыверсій. Усё больш мацаваліся сувязі і ўзаемадзеянне партызан з падпольшчыкамі. Арыенціровачна аперацыю намячалася пачаць 10.5.1943. З сак. БШПР пачаў перапраўляць партызанам пры дапамозе авіяцыі далёкага дзеяння і планёрных часцей зброю, боепрыпасы, узрыўчатку. Усяго да 6.6.1943 было дастаўлена 555 т грузаў: 125,5 т толу, каля 30 тыс. мін, 6430 аўтаматаў, 1064 ручныя кулямёты, 10 630 вінтовак і карабінаў, 465 процітанк. ружжаў і 68,4 тыс. патронаў да іх, каля 55 тыс. ручных і процітанк. гранат, больш за 8 млн. вінтовачных і аўтаматных патронаў і інш.

У час аперацыі партызаны, па няпоўных даных, пусцілі пад адхон 1806 эшалонаў, 8 бронецягнікоў, узарвалі 66 чыг. мастоў, разбурылі 167 км чыг. пуці, 619 км тэлефонна-тэлеграфнай сувязі, разграмілі 6 чыг. станцый і 164 фаш. гарнізоны і паліцэйскія ўчасткі, знішчылі больш за 71 тыс. і паранілі каля 18 тыс. салдат і афіцэраў праціўніка. Шырокае распаўсюджанне атрымалі баявыя дзеянні партызан па разбурэнні чыг. палатна. У гэтых аперацыях паўсюдна прымалі ўдзел байцы партыз. рэзерваў і жыхары бліжэйшых вёсак. Да лета 1943 партызаны вывелі са строю амаль усе вузкакалейкі. Дыверсіі партызан прымусілі гітлераўцаў прыняць дадатковыя меры для забеспячэння бяспекі чыгунак: з мая начны рух цягнікоў спыніўся, скорасць на шэрагу ўчасткаў знізілася да 10—15 км у гадз. Рост баявых дзеянняў партызан на камунікацыях ворага вясной — летам 1943 быў звязаны з ажыццяўленнем аперацыі «Г.», аднак яна была праведзена ў абмежаваным маштабе. БШПР не змог забяспечыць узрыўчаткай усе партыз. фарміраванні. Многія атрады і брыгады ў гэты час адбівалі карныя аперацыі гітлераўцаў і не змаглі актыўна ўдзельнічаць у «Г.». Аднак аперацыя адыграла станоўчую ролю ў развіцці дыверсійнай дзейнасці партызан Беларусі. Вопыт не быў выкарыстаны БШПР пры планаванні і ажыццяўленні новых, больш маштабных аперацый па вываду са строю камунікацый ням.-фаш. захопнікаў, у т. л. аперацыі «Рэйкавая вайна». *У. І. Лемяшонак.*

**ГРАЧАНІЧЭ́НКА** Уладзімір Аляксеевіч (н. 29.1.1908, с. Шпілёўка Сумскага р-на), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1932. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1941). З 1928 у Чырв. Арміі. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. У партызанах з мая 1942, з жн. 1942 камісар атрада, з мая 1943 — кав. дывізіёна (гл. *Партызанская брыгада 1-я Беларуская кавалерыйская).* З 1944 на 2-м Укр. фронце, удзельнік вызвалення Венгрыі, Чэхаславакіі. Да 1958 у Сав. Арміі. У 1958—64 на сав. рабоце.

**ГРО́ДЗЕНСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з жн. 1941 да ліп. 1944. Аб'ядноўвала больш за 60 падпольшчыкаў, 6 груп: б. ваеннаслужачых і сав. работнікаў (кіраўнік камуніст М. А. Волкаў), рабочых мясакамбіната (В. Д. Разанаў), рабочых аўтарамонтных майстэрняў, шклозавода, гарпаліўзбыту (С. П. Лямаў), 3 групы чыгуначнікаў лакаматыўнага дэпо ст. Гродна (кіраўнікі камуніст Н. Н. Багатыроў, С. П. Панасюк, Г. І. Святлічны); у стварэнні іх актыўны ўдзел прымалі камуністы І. У. Марцуль, Н. Е. Харашылаў, М. І. Цуканаў. Падполле працавала ў цесным кантакце з партызанамі брыгад імя Ленінскага камсамола Баранавіцкай, імя Кастуся Каліноўскага Беластоцкай абл., са спецгрупамі Чырв. Арміі. З ліп. 1943 дзейнічала пад кіраўніцтвам *Беластоцкага падпольнага абкома КП(б)Б.* Значная роля ў актывізацыі дзейнасці падполля належыць *Гродзенскаму падпольнаму гаркому ЛКСМБ.*

**Падпольная група былых ваеннаслужачых** створана ў жн. 1941, дапамагала байцам і камандзірам Чырв. Арміі, якія трапілі ў палон. Яна наладзіла сувязь з мясцовымі антыфашыстамі, у т. л. А. М. Леўта, А. В. Бараноўскім, К. Г. Васілюком, б. членамі КСМЗБ, прафс. актывістамі, якія мелі вопыт падп. барацьбы і канспірацыі ва ўмовах бурж. Польшчы, і пачала працаваць сумесна з імі. Падпольшчык Я. Ф. Карнюк рэгулярна слухаў па радыёпрыёмніку зводкі Саўінфармбюро, запісваў і распаўсюджваў іх сярод жыхароў горада. Вялікую дапамогу параненым чырвонаармейцам аказвалі чл. групы Разанава. Актыўную дыверсійную дзейнасць вялі падпольшчыкі-чыгуначнікі. 17.7.1941 Багатыроў зрабіў крушэнне 2 сустрэчных цягнікоў на ст. Гродна, 12.12.1941 ён вывеў са строю паравоз і 10 вагонаў. Ініцыятарамі сабатажу мерапрыемстваў акупантаў у чыг. дэпо ст. Гродна былі Святлічны і К. І. Гудоўскі. Большасць «адрамантаваных» імі паравозаў выходзілі са строю хутка пасля адпраўкі ў рэйс. Чыгуначнікі групы Панасюка закладвалі ў тэндэры паравозаў толавыя шашкі, замаскіраваныя пад вугаль. Парушаючы правілы эксплуатацыі, яны вывелі са строю каля 20 паравозаў, падарвалі 2 эшалоны, у чэрв. 1944 спалілі аддзяленне па перавозцы воінскай пошты і знішчылі воданапорную калонку на ст. Гродна. Дыверсіі ажыццяўлялі машыніст лакаматыва Б. К. Ярашэвіч, рабочыя Д. І. Салаўёў і Л. С. Балакін. Падпольшчыкі групы Лямава ў 1943 вывелі са строю каля 150 аўтамашын, 6 электраматораў, электразварачны апарат, інш. абсталяванне аўтарамонтных майстэрняў. Патрыёты аказвалі вял. дапамогу партыз. атрадам і брыгадам, якія дзейнічалі ў раёне Гродна. У вер. 1943 група Разанава вывела з Гродна ў партызаны 25 сав. патрыётаў. Падпольшчыкі аўтарамонтных майстэрняў і мясакамбіната перадалі партызанам шмат зброі, боеприпасаў, медыкаментаў, перавязачных сродкаў, адзення. Збіралі і рэгулярна перадавалі партызанам і спецгрупам разведданыя аб праціўніку, выяўлялі варожую агентуру, распаўсюджвалі сярод насельніцтва сав. лістоўкі, газеты. Актыўны ўдзел у гэтай рабоце прымалі камсамольцы Ю. В. Балычнаў, Н. С. Галубовіч, Н. А. Навадскі і інш.

У барацьбе з акупантамі загінулі: М. А. Волкаў, М. А. Быкаў, Г. В. Васілюк, В. В. Волкава (Шапашнікава), І. М. Завіша, Р. Хораў, В. Д. Разанаў, С. В. Будрык, Н. С. Галубовіч, М. М. Цішанаў, Д. К. Браско, Н. Е. Харашылаў, М. І. Цуканаў. *М. Ф. Шумейка.*

**ГРО́ДЗЕНСКАЯ КАВАЛЕРЫ́ЙСКАЯ ДЫВІ́ЗІЯ** імя Пархоменкі, гвардзейская ордэна Леніна, Чырванасцяжная, ордэнаў Суворава, Кутузава і Чырвонай Зоркі. Сфарміравана ў 1920 як 14-я кав. дывізія. Уваходзіла ў склад 1-й Коннай арміі. У 1921 атрымала найменне 14-й Майкопскай, з 1924 — 10-я Майкопская, з 1930 — 14-я кав. імя Пархоменкі. Удзельнічала ў вызваленчых паходах у Зах. Украіну і Бесарабію (1939, 1940). Узнагароджана ордэнамі Чырвонай Зоркі (27.12.1934) і Леніна (17.11.1939). Напярэдадні Айч. вайны складалася з 4 кав. і 1 танк. палкоў. Баявыя дзеянні пачала 26.6.1941 у раёне г. Крамянец. 25.12.1941 пераўтворана ў 6-ю гвардз. кав. дывізію, у складзе 3-га гвардз. кав. корпуса вяла баі ў раёне Харкава, на Доне, пад Сталінградам, у Данбасе і інш. З вер. 1943 у складзе Зах. фронту ўдзельнічала ў вызваленні ўсх. раёнаў Беларусі, узнаг. ордэнам Суворава II ступені (21.12.1943). У складзе конна-механіз. групы ген.-лейт. М. С. Аслікоўскага ўдзельнічала ў *Беларускай аперацыі 1944* на 3-м Бел., з 14.7.1944 — 2-м Бел. франтах. Разам з інш. часцямі і злучэннямі вызваліла 268 населеных пунктаў, у т. л. гарады Маладзечна, Ліду, Гродна, знішчыла больш за 5 тыс. салдат і афіцэраў ворага. У ходзе *Беластоцкай аперацыі 1944* вызначылася ў баях за Гродна (16.7.1944), атрымала ганаровае найменне «Гродзенскай» (25.7.1944). Удзельнічала ў вызваленні Польшчы, разгроме варожай групоўкі ва Усх. Прусіі, вяла баявыя дзеянні на тэр. Германіі, 2.5.1945 у раёне г. Вітанберг сустрэлася з часцямі амерыканскіх войск. Узнагароджана ордэнам Кутузава II ступені (4.6.1945). За перыяд вайны некалькі тысяч воінаў дывізіі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі СССР, 5 з іх прысвоена званне Героя Сав. Саюза, у т. л. капітану М. Ц. Аўчыннікаву.

Камандзіры: ген.-маёр В. Дз. *Кручонкін* (чэрв. — ліст. 1941), палк. А. І. Белагорскі (снеж. 1941 — снеж. 1942), палк., з лют. 1944 ген.-маёр П. П. Брыкель (студз. 1943 — да канца вайны). *М. І. Камінскі.*

**ГРО́ДЗЕНСКАЯ РАЁННАЯ АНТЫФАШЫ́СЦКАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ.** Дзейнічала са снеж. 1943 да ліп. 1944 на тэр. Гродзенскага р-на пад кіраўніцтвам Гродзенскага падп. РК КП(б)Б і Беластоцкага абл. антыфаш. к-та. Уваходзіла ў *Беластоцкую абласную антыфашысцкую арганізацыю.* Складалася з падп. груп, якія аб'ядноўвалі больш за 80 чал. у Адэльскім, Індурскім, Капцёўскім, Крынкаўскім, Кузніцкім, Сакольскім, Эйсмонтаўскім сельсаветах. Узначальваў яе раённы антыфаш. к-т (старшыня — камуніст А. М. Шумілін).

парадкі (знішчыла 21 танк, 34 бронетранспарцёры, да 2 батальёнаў пяхоты і інш.) праціўніка, толькі часова перапыніў наступленне ням.-фаш. войск. У раёне Г. баі з варожай авіяцыяй вялі лётчыкі 11-й мяшанай авіядывізіі (палк. П. І. Ганічаў), за дзень 22 чэрв. яны збілі 35 самалётаў праціўніка. Лётчыкі 127-га знішчальнага палка гэтай дывізіі (падпалк. А. В. Гардзіенка) рабілі па 8—9 самалётавылетаў, камандзір эскадрыллі А. С. *Данілаў* збіў 2 самалёты праціўніка, 1 з іх тараніў, паветр. тараны ажыццявілі ст. лейтэнанты М. І. Ерошын і П. А. Кузьмін, лейт. А. І. Пачын, камандзір эскадрыллі 16-га скорасн ага бамбардзіровачнага палка капітан А. С. Пратасаў. Часці 85-й стралк. дывізіі (ген.-маёр А. В. Бандароўскі) вялі абарончыя баі на З ад Г. каля р. Ласосна — 103-і (маёр М. П. Каравашкін) і 141-ы (падпалк. Малін) стралк. палкі, на Пн ад горада каля р. Нёман — 59-ы (палк. З. З. Цярэнцьеў) стралк. полк. У сувязі з пагрозай ахопу з флангаў часці 3-й арміі адступілі ў паўд.-ўсх. і ўсх. напрамках, дзе на рубяжы рэк Котра і Свіслач планавалася стварыць суцэльны фронт абароны. 23 чэрв. сав. войскі пакінулі Гродна і адышлі за Нёман, сапёры ўзарвалі ў горадзе апошні мост (астатнія былі разбураны і пашкоджаны). На працягу дня часці 11-га механізаванага корпуса (ген.-маёр Дз. К. Маставенка), прыкрываючы адыход арміі, стрымлівалі наступленне ням.-фаш. войск. Жорсткія баі на Пд ад Г. вёў 23 чэрв. 6-ы механіз. корпус (ген.-маёр М. Г. Хацкілевіч) 10-й арміі (ген.-маёр К. Дз. Голубеў). 23—25 чэрв. ў напрамку на Г. сіламі 6-га механіз. корпуса з З, 11-га механіз. корпуса і 85-й стралк. дывізіі з Пд, падтрыманых авіяцыяй Зах. фронту і 3-м далёкабамбардзіровачным корпусам, быў нанесены контрудар. У ходзе жорсткіх баёў праціўнік адступіў. Часці 29-й танк. і 85-й стралк. дывізій 25 чэрв. (у 2-й пал. дня) выйшлі да ўскраін Г., праціўнік пацярпеў значныя страты і вымушаны быў дадаткова перакінуць на гэты напрамак 2 армейскія корпусы і некаторыя часці 3-й танк. групы. Развіць наступленне 6-ы і 11-ы механіз. карпусы з-за недахопу гаручага і боепрыпасаў не здолелі, аднак у ходзе контрудару ням. войскі былі ўцягнуты ў працяглыя баі, на некалькі сутак да раёна Г. былі прыкаваны 6 пяхотных і амаль столькі танк. і авіяцыйных ням.-фаш. злучэнняў.

23 чэрвеня Г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты стварылі ў горадзе і прыгарадах канцэнтрацыйныя лагеры, забілі ў горадзе і раёне 51 438 чал., у т. л. ў лагерах Фолюш, Калбасіна (гл. *Калбасінскі лагер смерці*) 33 тыс. мірных жыхароў і ваеннапалонных, усяго на тэр. Гродзеншчыны — 176 530 чал. На катаржныя работы ў Германію было вывезена больш за 21 тыс. чал. У 1942 Гродзенскі павет у складзе Беластоцкай акругі ўключаны ў правінцыю Усх. Прусія, ням. мова абвешчана афіцыйнай. У горадзе пад кіраўніцтвам *Беластоцкага падпольнага абкома КП(б)Б, Беластоцкага падпольнага абкома ЛКСМБ* дзейнічала *Гродзенскае партыйна-камсамольскае падполле, Гродзенская раённая антыфашысцкая арганізацыя*, у горадзе і раёне Гродзенскі падп. РК КП(б)Б (28.11.1943—13.7.1944), *Гродзенскі падпольны гарком ЛКСМБ* і падп. РК ЛКСМБ (1.11.1943—26.7.1943). Выдавалася падп. газ. *«За Советскую Родину»*. На тэр. Гродзеншчыны барацьбу супраць ням.-фаш. акупантаў узначальвалі таксама Баранавіцкія і Вілейскія падп. абкомы КП(б)Б і ЛКСМБ (гл. адпаведныя арт.). Усяго на тэр. Гродзеншчыны дзейнічалі падпольна 3 міжрайпартцэнтры, гарком-райком, 21 райком КП(б)Б, камсам. органы — 25 райкомаў, 3 міжраённыя цэнтры ЛКСМБ, гарком, гарком-райком. Непасрэдна ў Гродзенскім р-не дзейнічалі *партызанская брыгада імя Кастуся Каліноўскага* і *партызанская брыгада імя Аляксандра Неўскага;* усяго на тэр. Гродзеншчыны дзейнічалі 26 партыз. брыгад і 9 асобных партыз. атрадаў, у якіх на час злучэння с часцямі Чырв. Арміі налічвалася больш за 17 тыс. партызан. З 13.7.1944 сав. войскі вялі жорсткія баі за вызваленне Г. Нямецкае камандаванне імкнулася ўтрымаць усімі сродкамі абарону на Нёмане, як перашкоду на шляху сав. войск ва Усх. Прусію. На лініі Гродна — Свіслач было сканцэнтравана каля 10 ням.-фаш. дывізій. Раён Г. выбраны як зручны для контрудараў на стыку 3-га і 2-га Бел. франтоў, якія наносіліся асабліва ў палосе наступлення сав. 50-й арміі, што некалькі затрымала, але не перапыніла наступленне сав. войск. Г. вызвалена 16.7.1944 (правабярэжная частка) і 24.7.1944 (занёманская частка) у ходзе *Беластоцкай аперацыі 1944* і *Вільнюскай аперацыі 1944* воінамі 220-й (ген.-маёр В. А. Палявік), 174-й (палк. М. І. Дземін), 352-й (ген.-маёр М. М. Стрыжэнка) стралк. дывізій 36-га стралк. корпуса, 926-га (падпалк. А. М. Хухрын), 927-га (падпалк. Ф. А. Лягеза) самаходных арт. палкоў, 140-й армейскай гарматнай арт. брыгады (палк. С. Ф. Фядотаў) 31-й арміі 3-га Бел. фронту, 42-й (палк. А. І. Сліц), 153-й (палк. А. А. Шчэннікаў) стралк. дывізій 69-га стралк. корпуса, 95-й (палк. С. К. Арцём'еў), 290-й (ген.-маёр І. Г. Гаспаран) стралк. дывізій 81-га стралк. корпуса, 1444-га самаходнага арт. палка (палк. Ф. П. Мячаў), 4-й знішчальна-процітанк. арт. брыгады (палк. М. П. Саўлевіч) 50-й арміі 2-га Бел. фронту, 5-й (ген.-маёр М. С. Чапуркін), 6-й (ген.-маёр П. П. Брыкель) гвардз. кав. дывізій, зводнай знішчальнай брыгады (падпалк. В. Я. Каўтанюк) 3-га гвардз. кав. корпуса, часцей 1-й паветр. арміі. 17 часцей і злучэнняў атрымалі ганаровыя найменні «Гродзенскіх» (гл. *Гродзенскія вайсковыя злучэнні і часці*). У Г. 2 вайсковых могілак, брацкія магілы сав. воінаў, партызан, ваеннапалонных, ахвяр фашызму, на якіх пастаўлены помнікі; помнікі ў гонар воінаў-вызваліцеляў, настаўнікам і вучням сярэдняй школы № 1, сакратару Гродзенскага падп. гаркома камсамола В. І. *Соламавай*, Героям Сав. Саюза Дз. М. *Карбышаву*, М. Т. Курбатаву, В. М. Усаву, ахвярам фашызму на месцы б. лагера смерці; устаноўлены мемар. дошкі камсамольцам-падпольшчыкам; насыпаны курган Славы - Працуе *Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей*.

*В. С. Паваліхіна.*

**ГРО́МАЎ** Міхаіл Міхайлавіч (24.2.1899, г. Калінін — 22.1.1985), Герой Сав. Саюза (1934), ген.-палк. авіяцыі (1944), засл. лётчык СССР, прафесар (1937). Чл. КПСС з 1941. Скончыў школу лётчыкаў (1918). У Чырв. Арміі з 1918. Устанавіў сусветны рэкорд далёкасці палёту. На фронце са снеж. 1941: камандзір авіядывізіі, камандуючы ВПС Калінінскага фронту, 3-й, 1-й (удзельнічала ў *Беларускай аперацыі 1944*) паветр. арміямі. Пасля вайны ў ВПС, у 1949—55 у Міністэрстве авіяц. прамысловасці. Дэп. ВС СССР у 1937—50. Яго імем названы вуліцы ў гарадах Быхаў, Магілёў, Орша; у час вайны яго імя было прысвоена 2 партыз. атрадам на акупіраванай тэр. Мінскай вобл.

**ГРУ́ШКА**, вёска на тэр. Жлобінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на Пд ад в. Кароткавічы. Перад вайной у ёй жыло 39 чал. У кастр. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 20 жыхароў, вёску (11 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь, на помніку спаленым вёскам у в. Кароткавічы.

**ГРЫБ** Кузьма Пятровіч (1911, в. Сінск Лоеўскага р-на — 29.9.1943), Герой Сав. Саюза (1944). З чэрв. 1943 на Зах. і Паўд.-Зах. франтах. Камандзір стралк. ўзвода мал. лейтэнант Г. вызначыўся 29.9.1943 у бai каля с. Мішурын Верхнеднепроўскага р-на Днепрапятроўскай вобл. Адзін з першых фарсіраваў Дняпро і ўварваўся ў вёску. У баі на захопленым плацдарме знішчыў каля 70 гітлераўцаў. Паранены, адбіваў контратакі

ворага, пакуль не загінуў. Яго імем названа вуліца ў в. Бывалькі Лоеўскага р-на.

**ГРЫГАРО́ВІЧ** Міхаіл Фролавіч (1.10.1897, в. Кавалічы Гродзенскага р-на — 24.11.1946), ген.-маёр (1940), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1920. У арміі з 1916, у Чырв. гвардыі з кастр. 1917, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў курсы «Выстрал» (1928), курсы Ваен. акадэміі Генштаба (1943). У Айч. вайну з крас. 1944 на 1-м Укр. фронце. Вызначыўся ў баях на Львоўскім напрамку ў ліп. 1944. Стралковы корпус на чале з Г. праравaў абарону ворага на ўчастку ў 9 км, прайшоў уперад на 35 км, 19—22.7.1944 выйшаў у тыл бродскай варожай групоўцы і ўдзельнічаў у яе ліквідацыі, 27.7.1944 авалодаў паўн.-ўсх. часткай Львова. У час наступлення на гэтым напрамку падраздзяленні яго корпуса прайшлі 200 км, вызвалілі каля 100 населеных пунктаў; вызваляў Чэхаславакію, Венгрыю. Яго імем названа вуліца ў Гродне; у в. Кавалічы і на будынку школы ў в. Лаша Гродзенскага р-на, дзе ён вучыўся, устаноўлены мемар. дошкі.



М. М. Громаў. М. Ф. Грыгаровіч. В. В. Грыгор'еў. Г. С. Грыгор'еў. П. Л. Грышчанка. І. Ц. Грышын.

**ГРЫГО́Р'ЕЎ** Апанас Ісакавіч (н. 17.2.1914, с. Другое Спорнае Варгашынскага р-на Курганскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1945. З 1937 у Чырв. Арміі. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. З снеж. 1942 камандзір партыз. атрадаў, у студз. — ліп. 1944 — *партызанскай брыгады 1-й Дрысенскай.* У 1944—74 на сав. і гасп. рабоце.

**ГРЫГО́Р'ЕЎ** Вісарыён Вісарыёнавіч (н. 17.4.1907, г. Данкоў Ліпецкай вобл.), віцэ-адмірал (1945). Канд. геаграфічных навук (1965). Чл. КПСС з 1941. У ВМФ з 1926. Скончыў Ваенна-марскую акадэмію (1940). З 1940 нач. штаба Дняпроўскай, потым Дунайскай флатылій, з ліст. 1941 нач. штаба Новарасійскай ваенна-марской базы, нач. аддзела Упраўлення баявой падрыхтоўкі наркамата ВМФ, нач. штаба Волжскай ваен. флатыліі, з вер. 1943 камандуючы *Дняпроўскай ваеннай флатыліяй.* Удзельнік абароны Ачакава, Нікалаева, Херсона, Керчы, Адэсы, Севастопаля, Каўказа, баявых дзеянняў на Волзе. У перыяд *Беларускай аперацыі 1944* Дняпроўская ваен. флатылія пад камандаваннем капітана 1-га рангу Г. знаходзілася ў аператыўным падпарадкаванні 1-га Бел. фронту, удзельнічала ў баях на рэках Бярэзіна, Прыпяць, Піна, Ясельда. Удзельнік вызвалення Польшчы, штурму Берліна. Да 1947 у ВМФ, потым у грамадз. флоце.

**ГРЫГО́Р'ЕЎ** Георгій Сцяпанавіч (1924, в. Лажкі Мажайскага р-на Маскоўскай вобл. — 20.1.1944), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. ВЛКСМ. На фронце з 1942. Вызначыўся каля Віцебска. Група байцоў на чале з гвардыі сяржантам Г. знішчыла 20 гітлераўцаў, захапіла 2 палонных і станковы кулямёт. У рашаючы момант бою цяжка паранены Г. кінуўся на варожы кулямёт, чым забяспечыў паспяховае выкананне задання. Пахаваны ў в. Шапуры Віцебскага р-на. Яго імем названа вуліца ў Віцебску.

**«ГРЫФ»** («Greif») № 30, кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партызан і цывільнага насельніцтва ў Аршанскім і Сенненскім р-нах 16—30.8.1942, з'яўлялася ч. плана акупантаў па «ачыстцы і ўціхамірванню» ўял. лясіста-балоцістага раёна, які прымыкаў да шашэйных і чыг. камунікацый у трохвугольніку Віцебск — Орша — Смаленск (гл. таксама *«Брэслаў», «Рысь», «Сава»).*

Праводзілася сіламі 13-га, 14-га паліцэйскіх, 61-га ахоўнага, 638-га французскага, 257-га пяхотнага палкоў, арт. і жандарскіх падраздзяленняў, спец. батальёна «доктара Кнобліка з ударнай матарызаванай часцю», групы паліцыі бяспекі і СД, роты сапёраў і сувязі. Кіраваў аперацыяй камандзір 286-й ахоўнай дывізіі ген.-маёр Рыхерт. 17 жн. з раёна Орша — Чарнаручча — Любавічы перайшоў у наступленне 14-ы паліцэйскі полк, з раёна Орша — Лепель — Узрэчча наступаў 61-ы ахоўны пол[к], з Пн раён аперацыі быў блакіраван[ы] 13-м палком і групай Піча.

6 дзён партызаны вялі бязліта[с]ныя баі супраць карнікаў. У д[ні] блакады камандуючым усімі парты[занскімі] сіламі Аршанскай зоны быў пры[]значаны В. У. Бойка. 22 жн. парты[занскія] брыгады К. С. Заслонава, К. [В.] Зюкава (знаходзілася ў стад[ыі] фарміравання), Багушэўская «Аляксея», атрады «Меч», «Быстры», М. І. Талеркі, І. А. Яцыны, Н. В. Сакалова, Ф. Ф. Азміцеля, атрад смаленскіх партызан пад камандаваннем М. В. Антоненкава ўмелым і рашучым манеўрам прарвалі блакаду і выйшлі ў Адамаўскі лес (за 10—12 км на У ад Сянно). Да 30.8.1942 карнікі лютавалі ў Аршанскім і Багушэўскім р-нах. У ходзе аперацыі фашысты загубілі каля 900 старых, жанчын і дзяцей, 910 чал. вывезлі ў Германію, забралі ў насельніцтва больш за 1700 галоў жывёлы, спалілі некалькі вёсак, у т. л. Бортнікі, *Марозаўка,* у в. Гаркава Віцебскага р-на расстралялі 19 чал. і інш. *У. С. Пасэ.*

**ГРЫ́ШЧАНКА** Пётр Лук'янавіч (1.8.1921, в. Кукавячына Віцебскага р-на — 21.12.1973), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1944. Скончыў Віцебскі аэраклуб (1939), Армавірскую ваен. авіяц. школу пілотаў (1942), ваенна-паветр. акадэмію (1955). На фронце з сак. 1943, лётчык-знішчальнік. Удзельнік Курскай бітвы, вызвалення Украіны, Польшчы, Чэхаславакіі, Берлінскай аперацыі. Камандзір звяна знішчальнага авіяпалка лейтэнант Г. зрабіў 380 баявых вылетаў, правёў 78 паветр. баёў, збіў 27 варожых самалётаў і аэрастат. Да 1961 у Сав. Арміі, падпалкоўнік.

**ГРЫ́ШЫН** Іван Ціханавіч (16.12.1901, в. Унукавічы Рослаўскага р-на Смаленскай вобл. — 20.6.1951), ген.-палк. (1945), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1927. У Чырв. Арміі з 1920. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1936). З чэрв. 1941 на Зах., Бранскім, 2-м Бел.

франтах: камандзір стралк. дывізіі, нач. штаба 50-й, потым 11-й гвардз. арміі, з чэрв. 1943 камандуючы 49-й арміяй. Удзельнік Смаленскай 1943, Бел. 1944, Усх.-Прускай 1945 аперацый. Армія пад яго камандаваннем вызначылася ў баях за вызваленне Магілёва, пры фарсіраванні Дняпра, Друці, Бярэзіны, удзельнічала ў ліквідацыі мінскага «катла». Пасля вайны на камандных пасадах у Сав. Арміі. Яго імем названа вуліца ў Магілёве.

**ГРЫ́ШЫН** Сяргей Уладзіміравіч (н. 18.3.1917, в. Фаміно Дарагабужскага р-на Смаленскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1943). Канд. ваен. навук (1964), дацэнт (1966). Чл. КПСС з 1943. Скончыў ваен. акадэмії імя Фрунзе (1947) і Генштаба (1955). З чэрв. 1941 на Зах. фронце, камандзір танк. ўзвода. З вер. 1941 камандзір групы, потым партыз. атрада «Трынаццаць» у Смаленскай вобл. У чэрв. 1942 — маі 1944 камандзір асобага *партызанскага палка «Трынаццаць»*, які дзейнічаў з крас. 1943 на тэр. Беларусі; у чэрв. 1944 камандзір асобага партыз. злучэння «Трынаццаць». Пасля вайны ў Сав. Арміі, палкоўнік. З 1958 на выкладчыцкай рабоце ў ваен. акадэміі.

**ГРЭ́БНЕЎ** Андрэй Феакціставіч (30.11.1912, п. Пакацілаўка Церакцінскага р-на Уральскай вобл.—20.10.1973), Герой Сав. Саюза (1945), ген.-маёр (1953). Чл. КПСС з 1942. У Чырв. Арміі з 1934. Скончыў курсы «Выстрал» (1941), Вышэйшыя акадэмічныя курсы пры Ваен. акадэміі Генштаба (1956). Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. З жн. 1941 на Зах., Бранскім, Цэнтр., 1-м, 2-м, 3-м Бел. франтах. Вызначыўся ў баях за вызваленне Беларусі. 24.6.1944 стралк. полк пад яго камандаваннем прарваў абарону праціўніка на ПдУ ад в. Задрудцце Рагачоўскага р-на, фарсіраваў Дняпро, уварваўся ў варожыя траншэі і знішчыў каля 200 гітлераўцаў. У баях за вызваленне Баранавіч, Слоніма, Ваўкавыска полк знішчыў 13 станковых кулямётаў, 7 самаходных гармат, 3 танкі, больш за 400 гітлераўцаў, захапіў у палон больш за 500 салдат і афіцэраў. Да 1968 у Сав. Арміі.

**ГРЭСК**, вёска ў Слуцкім р-не. За 18 км на Пн ад Слуцка, за 20 км ад чыг. ст. Слуцк, аўтадарогамі звязаны з Капылём, Слуцкам, Мінскам. У 1935—56 цэнтр Грэскага р-на. Акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі 27.6.1941, часткова спалены. Акупанты забілі ў Г. і раёне 1611 чал. У Г. і раёне дзейнічалі *Грэскае партыйна-камсамольскае падполле*, Грэскія падп. райкомы КП(б)Б (12.3.1943—29.6.1944) і ЛКСМБ (1.12.1942—1.7.1944), партыз. брыгады імя Варашылава, 27-я імя Чапаева, 225-я імя Суворава, 95-я імя Фрунзе, асобны партыз. атрад М. П. Канстанцінава (гл. адпаведныя артыкулы), выходзіла падп. газ. *«Сталінец»*. Вызвалены 1.7.1944 воінамі 233-га асобнага танк. палка (палк. Л. С. Тулоўскі) 1-га Бел. фронту ў ходзе *Мінскай аперацыі 1944*. У Г. брацкая магіла сав. воінаў і ахвяр фашызму, на якой пастаўлены помнік, ён увекавечвае таксама памяць аб земляках, загінуўшых у Вял. Айч. вайну; устаноўлена мемар. дошка падпольшчыкам. *В. С. Павaліхіна.*

**ГРЭ́СКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з ліп. 1941 да чэрв. 1944 у Грэскім р-не пад кіраўніцтвам Грэскага падп. РК КП(б)Б (з сак. 1943). Арганізатар і кіраўнік У. І. *Заяц*. Каля 80 чал., у т. л. 10 камуністаў і 4 камсамольцы, 4 групы: у бальніцы в. Грэск — кіраўнік Ю. Г. Войчык, в. Стараселле — А. В. Вадап'ян, в. Гацук — Заяц, в. Вобчае (Сялецк) — І. І. Каско. Падпольшчыкі вялі сярод насельніцтва паліт. работу, распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, перадавалі партызанам звесткі пра рух варожага транспарту, папярэджвалі іх пра карныя аперацыі акупантаў, памагалі зброяй, медыкаментамі. Сістэматычна парушалі тэлефонную сувязь праціўніка, спалілі некалькі мастоў на шашэйных дарогах, напалі на апорны пункт акупантаў у в. Вобчае, захапілі абоз з прадуктамі і пераправілі партызанам 3 т збожжа, 4,5 т бульбы, 6 пудоў солі, пусцілі пад адхон эшалон з жывой сілай і тэхнікай ворага.

У барацьбе з ворагам загінулі: Аляксандр Аляксандравіч Бурак, Анатоль Аляксандравіч Бурак, А. М. Бурак, Е. І. Бурак, Ю. Г. Войчык, А. А. Дземідовіч, Л. Кавалёва, А. А. Каляда, А. В. Каляда, Ю. М. Каляда, А. М. Каспяровіч, А. В. Клебановіч, І. В. Клебановіч, В. А. Нямковіч, У. І. Рухлевіч, Ф. Р. Тарасевіч, А. П. Хацько. *А. Б. Рогаў.*

С. У. Грышын. А. Ф. Грэбнеў.






Аўтар У.С.Пасэ

**ГУДЗІ́МАЎ** Сцяпан Мітрафанавіч (7.11.1913, с. Ягаднае Камышынскага р-на Валгаградскай вобл.—22.6.1941), лётчык-знішчальнік, які

ў Айч. вайну адзін з першых тараніў варожы самалёт. Чл. КПСС з 1941. З 1934 у Чырв. Арміі, з 1938 служыў на Беларусі. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. Штурман эскадрыллі 33-га знішчальнага авіяпалка лейтэнант Г. раніцай 22.6.1941 каля г. Пружаны збіў 2 варожыя бамбардзіроўшчыкі, адзін з якіх тараніў. Загінуў у гэтым баі. У Пружанах яго імем названа вуліца, у гар. скверы пастаўлены помнік.

**ГУДКÓЎ** Мікалай Пятровіч (н. 19.12. 1912, г. п. Сокалава-Кундручанскі Растоўскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40, абароны Віцебска ў 1941. У партызанах з лета 1941: камандзір групы, атрада, у жн. 1942 — чэрв. 1944 *партызанскай брыгады М. П. Гудкова*, адначасова чл. Талачынскага падп. РК КП(б)Б. У 1946—62 працаваў на шахтах у Растоўскай вобл.

**ГУЙДЫ,** вёска на тэр. Расонскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 4 км на ПнЗ ад г. п. Расоны. Перад вайной у ёй жыло 35 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»*, фашысты загубілі 35 жыхароў, вёску (9 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Астанкі жыхароў пахаваны ў в. Фаміно Расонскага р-на, дзе ў 1965 на іх магіле пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ГУЛÉВІЧ** Павел Іванавіч (11.8.1910, в. Рудня-Стаўбунская Веткаўскага р-на — 27.4.1978), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1948. З 1932 у Чырв. Арміі. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. З чэрв. 1942 нач. штаба, з кастр. камандзір партыз. атрада, у ліст. 1942— ліп. 1944 — *партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна.* У 1944—66 на сав. і гасп. рабоце.

**ГУЛÉЙКА** Васіль Рыгоравіч (23.4. 1893, в. Быстрыца Капыльскага р-на — 8.7.1973), ген.-лейт. артылерыі (1944). Чл. КПСС з 1932. У арміі з 1915, у Чырв. гвардыі з 1917, у Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз. вайны. У Айч. вайну на фронце з 1941: нач. штаба артылерыі арміі, упраўлення нач. артылерыі Карэльскага фронту. У 1943—46 нам. нач. штаба Гал. ўпраўлення камандуючага артылерыяй Сав. Арміі. Да 1951 у Сав. Арміі.



В. Р. Гулейка. Дз. Ц. Гуляеў. П. А. Гупянец. А. І. Гурын. С. Ш. Гурэвіч. І. І. Гусакоўскі.

**ГУЛЯ́ЕЎ** Дзмітрый Цімафеевіч (5.11. 1915, с. Іванаўка Аляксандраўскага р-на Кіраваградскай вобл.— 5.9. 1943), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1939. Скончыў Чаркаскі дарожна-будаўнічы тэхнікум (1934), вучыўся ў Маскоўскім ваен.-паліт. вучылішчы. У партызанах з ліп. 1941. З жн. 1941 да крас. 1942 камісар атрада імя Я. Дз. Гарбачова, з мая 1942 камандзір атрада, які ў студз. 1943 увайшоў у *партызанскую брыгаду 99-ю імя Дз. Ц. Гуляева*, з чэрв. 1943 камандзір *партызанскай брыгады 101-й імя Аляксандра Неўскага.* Загінуў у баі. Пахаваны ў г. п. Старобін. Яго імем названы пасёлак у Любанскім і вёска ў Слуцкім р-нах, калгас у Любанскім р-не, школа ў Старобіне, вуліцы ў Салігорску, Старобіне, у в. Малыя Гарадзяцічы Любанскага, Зажэвічы і Старыя Цярушкі Салігорскага р-наў. На месцы, дзе ён загінуў, у в. Калініна Слуцкага р-на пастаўлены помнік.

**ГУМНІ́ЧЫНА,** вёска на тэр. Гарадоцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 5 км на ПнЗ ад в. Майсеева Халамерскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 49 чал. У ліст. 1942, у час карнай аперацыі *«Клетка малпы»*, фашысты загубілі 39 жыхароў, вёску (12 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ГУПЯНÉЦ** Піліп Аляксеевіч (18.10. 1910, в. Воўчын Камянецкага р-на — 16.9.1981), поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПЗБ у 1932—38. Чл. КПСС з 1953. У 1935 за паліт. дзейнасць судом бурж. Польшчы прыгавораны да 5 гадоў турэмнага зняволення. На фронце з жн. 1944. Камандзір кулямётнага разліку мал. сяржант Г. вызначыўся на тэр. Польшчы і Германіі. 26.1.1945 знішчыў 2 агнявыя кропкі праціўніка і 12 гітлераўцаў; 20.3.1945 на подступах да р. Одэр агнём з кулямёта адбіў контратаку, знішчыў больш за 20 фашыстаў; 20.4.1945 у баі за г. Бернау знішчыў 2 агнявыя кропкі і 17 гітлераўцаў.

**ГУРКÓ** Аляксей Дзямідавіч (12.12. 1904, в. Зачэрня Лёзненскага р-на — 9.12.1975), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1930. З 1926 у Чырв. Арміі. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. З мая 1942 камандзір партыз. атрада, у вер. 1943 — лют. 1944 — *партызанскай брыгады 1-й Віцебскай* (2-га складу). У 1944—64 на сав. і гасп. рабоце.

**ГУ́РЫН** Антон Іосіфавіч (28.9.1910, в. Шпількі Дзяржынскага р-на Мінскай вобл.—22.10.1962), Герой Сав. Саюза (1945), контр-адмірал (1951). Чл. КПСС з 1938. У ВМФ з 1928. Скончыў ваенна-марское вучылішча імя Фрунзе (1932), Ваенна-марскую акадэмію імя Варашылава (1948). З чэрв. 1941 на Паўн. флоце, камандзір эскадранага мінаносца, дывізіёна эскадраных мінаносцаў. Правёў шэраг паспяховых аперацый па канваіраванню транспартаў і пошуку варожых падводных лодак. Толькі з 1944 удзельнічаў у 18 баявых аперацыях, суправаджаў 95 транспартаў, камандаваў 10 аперацыямі па канваіраванню транспартаў і аперацыямі па пошуку варожых падводных лодак. З 1949 нач. штаба і камандзір злучэння караблёў. З 1955 нам. нач. і нач. кафедры Ваенна-марской акадэміі імя Варашылава.

**ГУРЭ́ВІЧ** Сямён Шоламавіч (20.12. 1915, г. Чэрвень — 23.4.1982), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1943. У Чырв. Арміі з 1935. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. Скончыў Тамбоўскае кав. вучылішча (1942). З 1941 на Зах., Бранскім, Сцяпным, 2-м і 1-м Укр. франтах. Камандзір узвода сувязі лейтэнант Г. 25.9.1943 з групай сувязістаў фарсіраваў Дняпро на Пн ад Дне-

прадзяржынска і наладзіў тэлефонную сувязь з палком. Ліквідаваў групу гітлераўцаў, якая прарвалася ў тыл нашым войскам і пагражала пераправе. Пасля вайны працаваў на заводзе ў Мінску.

**ГУСАКО́ЎСКІ** Іосіф Іракліевіч (н. 25.12.1904, в. Вародзькаў Крычаўскага р-на), двойчы Герой Сав. Саюза (1944, 1945), ген. арміі (1968). Чл. КПСС з 1931. У Чырв. Арміі з 1928. Скончыў кав. школу (1931), Ваен. акадэмію Генштаба (1948). З ліп. 1941 на Зах., Варонежскім, 1-м Укр., 1-м і 2-м Бел. франтах: нач. штаба танк. палка, танк. брыгады, з 1943 камандзір танк. брыгады. Удзельнік Маскоўскай і Курскай бітваў, вызвалення Украіны, Польшчы, баёў за Берлін. Вызначыўся пры знішчэнні бродскай групоўкі праціўніка ў час Львоўска-Сандамірскай аперацыі 1944, пры фарсіраванні р. Піліца і авалоданні г. Ловіч у час Вісла-Одэрскай аперацыі 1945. Пасля вайны на камандных пасадах у Сав. Арміі. Дэп. ВС СССР у 1962—70. У Крычаве яго імем названа вуліца, у Магілёве пастаўлены бюст. Аўтар кн. «Помніце — вы сяржант!» (1961).

**ГУСА́РАЎ** Рыгор Андрэевіч (6.2.1906, в Алешня, Рагачоўскі р-н — 23.12.1943), Герой Сав. Саюза (1944). Член КПСС з 1943. Працаваў у калгасе. На фронце з вер. 1941. Камандзір аддзялення стралк. палка сяржант Г. вызначыўся ў Верхнеднядроўскім р-не Днепрапятроўскай вобл. 28.9.1943 у ліку першых фарсіраваў Дняпро. У баі каля с. Мішурын Рог замяніў выбыўшага камандзіра ўзвода. Умелымі дзеяннямі заняў са ўзводам зручны рубеж і садзейнічаў пераправе інш. падраздзяленняў палка.

**ГУТНІК** Васіль Васілевіч (н. 10.12.1921, в. Каменск Касцюковіцкага р-на), поўны кавалер ордэна Славы. У Чырв. Арміі і на фронце з 1941. Удзельнік абароны Сталінграда, Курскай бітвы, вызвалення Украіны, Польшчы. Наводчык гарматы сяржант Г. вызначыўся пры фарсіраванні Віслы ў раёне г. Сандамір. У жн. 1944 у складзе перадавога атрада фарсіраваў раку. На левым беразе з гарматы разам з разлікам падавіў агонь варожых кулямётаў, у баях за расшырэнне плацдарма падбіў 2 танкі і бронетранспарцёр; у лют.—мал 1945 у час ліквідацыі варожай групоўкі і вулічных баёў у Брэслаў (Вроцлаў, ПНР) знішчыў некалькі агнявых кропак і каля 300 салдат і афіцэраў праціўніка. Пасля вайны працаваў на шахце.

**ГУЧО́К** Пётр Іосіфавіч (18.3.1923, в. Лысоўшчына Пухавіцкага р-на — 18.4.1945), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1944. Скончыў Мінскі аэраклуб (1940), ваен. авіяц. школу (1942). З 1943 на 4-м, 2-м, 1-м Укр. франтах. Камандзір звяна знішчальнага авіяпалка ст. лейтэнант Г. зрабіў 209 баявых вылетаў, правёў 56 паветр. баёў, збіў асабіста 20 варожых самалётаў і 3 у групавых баях. Загінуў пад Берлінам, пахаваны ў г. Чанстахова (ПНР). Яго імем названа вуліца ў г. Мар'іна Горка.

**ГУШЧЭ́НЯ** Уладзімір Іванавіч (31.12.1903, в. Вял. Чучавічы Лунінецкага р-на — 7.5.1956), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Палескай вобл. Чл. КПСС з 1946. З 1918 у Чырв. Арміі. Удзельнік грамадз. вайны. З 1927 на сав. і гасп. рабоце. У партызанах з ліп. 1941: камандзір аддзялення, атрада, у вер. 1943—ліп. 1944 *партызанскай брыгады 50-й Жыткавіцкай.* З 1944 на сав., парт. і гасп. рабоце.

**«ГЮ́НТЭР»** («Günter»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў у Валожынскім, Заслаўскім, Лагойскім, Плешчаніцкім, Радашковіцкім р-нах у канцы чэр.— пач. ліпеня 1943.

Праводзілася з мэтаю знішчэння вёсак, у якіх жыхары спачувалі партызанам, захопу насельніцтва і рэквізіцыі с.-г. прадукцыі для вывазу ў Германію. У баявую групу карнікаў уваходзілі палкі Грыпа і Гольца, асобы батальён СС Дырлевангера. Кіраваў аперацыяй групанфюрэр СС і ген.-лейт. паліцыі Карземан, камандны пункт знаходзіўся ў Астрашыцкім Гарадку.

Карнікі пазбягалі непасрэднага сутыкнення з партыз. фарміраваннямі, якія дыслацыраваліся ў раёне аперацыі. Яны прачасалі мясцовасць на Пн ад Мінска ўздоўж дарогі Астрашыцкі Гарадок — Радашковічы і да Плешчаніц (вёскі Калачы, Янушкавічы, Вял. Бясяды і інш.), хапалі мужчынскае працаздольнае насельніцтва ва ўзросце ад 10 да 50 гадоў і канваіравалі на зборныя пункты. Асобы, западозраныя ў спачуванні або прыналежнасці да партызан, у т. л. хворыя і параненыя, расстрэльваліся.

*У. С. Пасэ.*



**ДАБРАВО́ЛЬСКІ** Ерафей Уладзіміравіч (19.11.1903, в. Шалаёўка Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл.— 21.4.1987), ген.-лейт. (1945), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1927. У Чырв. Арміі з 1925. Скончыў Кіеўскае ваен. пях. вучылішча (1931), курсы «Выстрал» (1940), Вышэйшыя акадэмічныя курсы пры Ваен. акадэміі Генштаба (1947). З ліп. 1941 на Зах., Калінінскім, 1-м Прыбалт. і 1-м Бел. франтах: камандзір палка, нач. штаба, нам. камандзіра, камандзір стралк. дывізіі, корпуса. Войскі 16-га корпуса на чале з Д. вызначыліся ў студз. 1945 у баях на р. Вісла каля г. Казімеж (Польшча): прарвалі абарону і разграмілі праціўніка, знішчылі 549 гармат, 123 танкі, 100 самаходных гармат, 4011 аўтамашын, 200 матацыклаў, знішчылі каля 7160 і ўзялі ў палон 1270 гітлераўцаў. Да 1958 у Сав. Арміі. Яго імем названа вуліца ў г. Жлобін.

В. В. Гутнік. П. І. Гучок.



**ДАБРАВО́ЛЬСКІ** Фядос Філімонавіч (н. 9.12.1909, в. Падрэчча Кіраўскага р-на), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1939. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1950). З 1929 на пед. рабоце. У партызанах з ліп. 1941: палітрук узвода, роты, з ліп. 1943 камісар атрада, у кастр. 1943— чэрв. 1944 — *партызанскага палка 537-га.* У 1944—71 на парт. і адм.-гасп. рабоце.

**ДАВА́ТАР** Леў Міхайлавіч (20.2.1903, в. Хоціна Бешанковіцкага р-на — 19.12.1941), ген.-маёр (1941), Герой Сав. Саюза (1941). Чл. КПСС з 1928. У Чырв. Арміі з 1924. Скончыў кав. вучылішча (1926), Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1939). З 1939 нач. штаба кав. палка, брыгады, дывізіі. З чэрв. 1941 на Зах. фронце, камандаваў асобнай кав. групай, якая ў жн.— вер. 1941 зрабіла глыбокі рэйд па тылах ворага ў Смаленскай вобл. У вер. 1941 вяла абарончыя баі на р. Мёжа. З ліст. камандуючы кав. корпусам, умела арганізаваў абарону на р. Лама, сарваў наступленне групоўкі праціўніка ад г. Сонечнагорск на Маскву. У час контрнаступлення пад Масквой корпус на чале з Д. наступаў у тыл ворагу з раёна Кубінкі, дзе быў прарваны фронт. Загінуў на подступах да г. Руза ў баі каля в. Палашкіна. На радзіме, на месцы яго гібелі і на магіле на Новадзявочых мо-

гілках у Маскве пастаўлены помнікі. Яго імем названы вуліцы ў Маскве, Мінску, Віцебску і інш. гарадах; імя героя прысвоена коннаму з-ду ў пас. Ратамка Мінскага р-на, калгасу ў Шаркоўшчынскім і саўгасу ва Ушацкім р-нах, вучылішчу ў г. п. Ула Бешанковіцкага р-на, дзе створаны мемар. музей Д., бібліятэцы ў г. п.

Е. У. Дабравольскі. Л. М. Даватар. М. П. Давідовіч. І. Е. Давідоўскі. П. П. Дайнека. Аляксандр Ільіч Далідовіч.



Бешанковічы; у г. п. Ула, в. Хоціна і каля вёскі помнікі Д.

**ДАВІДО́ВІЧ** Мікалай Пятровіч (н. 15.8.1919, в. Карбачоўка Лагойскага р-на), Герой Сав. Саюза (1943). Працаваў у леспрамгасе Комі АССР. Скончыў Туркестанскае кулямётнае вучылішча (1945). На фронце з 1942. Камандзір кулямётнага разліку сяржант Д. вызначыўся на Варонежскім фронце. У канцы вер. 1943 у складзе перадавога атрада ўдзельнічаў у захопе плацдарма на правым беразе Дняпра ў раёне с. Новыя Пятроўцы Вышгарадскага р-на Кіеўскай вобл. Астаўшыся з падраздзялення адзін, некалькі гадзін адбіваў атакі праціўніка. З 1946 жыве і працуе ў Мінску.

**ДАВІДО́ЎСКІ** Іван Елізаравіч (30.5. 1896, в. Грозаў Капыльскага р-на — 15.4.1960), ген.-лейт. (1945). Чл. КПСС з 1939. У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў ваен. акадэміі імя Фрунзе (1925), Генштаба (1948). У 1936—38 у штабе БВА. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну на Бранскім, Зах., 2-м і 1-м Бел. франтах; камандзір дывізіі, нам. камандуючага арміяй. Удзельнік абароны Масквы, вызвалення Рослава, Шклова, Магілёва, Мінска, Каўнаса, Польшчы, баёў пад Берлінам. З 1945 нам. камандуючага Смаленскай ваен. акругай. У 1946—56 ст. выкладчык Ваен. акадэміі Генштаба.

**ДАВЫ́Д-ГАРАДО́К,** горад у Столінскім р-не, прыстань на р. Гарынь. За 32 км на ПнУ ад Століна, 39 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец — Сарны, аўтадарогамі звязаны з Пінскам, Столінам, Туравам. 11,7 тыс. жыхароў у 1939. У 1940—61 цэнтр раёна. У пач. вайны ў раёне Д.-Г. часці 75-й і 6-й стралк. дывізій і некаторыя інш. зводныя атрады 4-й арміі Зах. фронту, якія былі аб'яднаны ў адну групу ген.-маёрам С. І. Нядвігіным, стрымлівалі націск 293-й і 45-й ням. пяхотных дывізій. 7.7.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў Д.-Г. 402 чал. У горадзе і раёне дзейнічалі Давыд-Гарадоцкія падп. райкомы КП(б)Б (ліп. 1941—13.9. 1941; 16.7.1943—12.2.1944) і ЛКСМБ (11.8.1943 — 12.2.1944), *партызанская брыгада «Савецкая Беларусь», партызанскі атрад Давыд-Гарадоцкі.* У ліп. і кастр. 1943 партызаны разгромілі ў Д.-Г. ням.-фаш. гарнізон (гл. *Давыд-Гарадоцкія баі 1943).* Вызвалены 9.7.1944 войскамі 397-й стралк. дывізіі (палк. М. Ф. Андоньеў) 61-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе наступлення на Лунінецка-Пінскім напрамку ў *Беларускай аперацыі 1944.* У горадзе брацкая магіла сав. воінаў і партызан, на якой пастаўлены помнік.

*Н. У. Капранава.*

**ДАВЫ́Д-ГАРАДО́ЦКІЯ БАІ́ 1943,** баі паміж партызанамі атрада «Савецкая Беларусь» (гл. *Партызанская брыгада «Савецкая Беларусь»* Пінскай вобл.), злучэннем А. М. Сабурава Жытомірскай вобл. (УССР) і ням.-фаш. захопнікамі ў Давыд-Гарадку Столінскага р-на ў ліп. і кастр. 1943.

Разгрому буйнога гарнізона праціўніка ў Давыд-Гарадку (каля 300 гітлераўцаў) папярэднічала партыз. разведка. Звесткі пра размяшчэнне гарнізона, сістэму абароны партызанам перадалі падпольшчыкі. У аперацыі удзельнічалі 5 партыз. баявых груп (400 чал.). Адна група, каб адцягнуць увагу ворага, наступала па дарозе в. Альшаны — г. Тураў, другая перакрыла дарогу ў в. Харомск, перашкаджаючы падыходу падмацаванняў праціўніка з Століна.

Тры групы партызан у ноч на 25 ліп. з розных бакоў уварваліся ў Давыд-Гарадок і да гадзіны ночы поўнасцю авалодалі горадам. У выніку бою жандармерыя і паліцыя ў горадзе былі ў асн. ліквідаваны (знішчана да 20 гітлераўцаў, а астатнія ў паніцы разбегліся), знішчаны ўсе будынкі, у якіх знаходзіліся установы і прадпрыемствы акупантаў, спалены мост цераз р. Гарынь, склады і ўмацаванні, 3 аўтамашыны, 4 матацыклы, захоплена зброя. Спалены ням. маёнтак «Высокае» каля Давыд-Гарадка, захоплена 20 коней, 120 галоў буйной рагатай жывёлы, больш за 200 авечак. Вайсковая часць праціўніка, што знаходзілася за 1 км ад Давыд-Гарадка за р. Гарынь, якая шырока разлілася, была паралізавана агнём партыз. артылерыі. Партызаны без страт пакінулі Давыд-Гарадок. У ноч на 14.10.1943 партызаны зрабілі другі налёт на гарнізон у Давыд-Гарадку. Праціўнік не прыняў бою і пакінуў умацаваныя пазіцыі. Партызаны знішчылі ўсе будынкі і прадпрыемствы акупантаў, узарвалі масты цераз р. Гарынь, катэр, захапілі склады з харчаваннем і амуніцыяй і без страт адышлі.

*У. С. Пасэ.*

**ДАЙНЕ́КА** Піліп Пятровіч (29.11. 1916, в. Дуброва Светлагорскага р-на — 13.2.1979), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Беластоцкай вобл. Герой Сац. Працы (1966). Чл. КПСС з 1939. Скончыў ВПШ пры ЦК КПСС (1958). З 1935 на сав. рабоце. У партызанах з жн. 1941: палітрук роты, камандзір групы, у крас.-ліст. 1943 камісар атрада, у ліст. 1943—ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады імя Аляксандра Неўскага,* адначасова з студз. 1944 сакратар Гродзенскага падп. РК КП(б)Б. З ліп. 1944 на парт. рабоце ў Гродзенскім і Мастоўскім райкомах КП(б)Б. З 1965 1-ы сакратар Гродзенскага РК КПБ, з 1970 заг. аддзела Гродзенскага абкома КПБ. Званне Героя прысвоена за поспехі ў развіцці жывёлагадоўлі, павелічэнні вытворчасці і нарыхтовак с.-г. прадукцыі. Канд. у чл. ЦК КПБ у 1960—61. Дэп. ВС БССР у 1963—71. Ганаровы грамадзянін г. Масты.

**ДАЛІДО́ВІЧ** Аляксандр Іванавіч (15. 2.1905, в. Заўшыцы, Салігорскі р-н — 10.3.1946), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай і Палескай

абл. Чл. КПСС з 1929. Скончыў Вышэйшую камуніст. с.-г. школу Беларусі (1935). Да 1941 на сав. рабоце. У партызанах з ліп. 1941: камандзір групы, атрада, у студз. 1943— ліп. 1944 *партызанскай брыгады 25-й імя П. К. Панамарэнкі.* У 1944—45 у СНК БССР. Яго імем названа вуліца ў в. Жывунь Любанскага р-на.

**ДАЛІДО́ВІЧ** Аляксандр Ільіч (2.8. 1914, в. Ямнае Пухавіцкага р-на — 24.9.1952), поўны кавалер ордэна Славы. На фронце з 1941. Камандзір аддзялення разведкі сяржант Д. вызначыўся пры вызваленні Ленінградскай вобл. і на тэр. Германіі. 21.6.1944 каля г. Ладзейнае Поле ў складзе разведгрупы пераправіўся цераз р. Свір, знішчыў 5 агнявых кропак праціўніка, узяў у палон 38 гітлераўцаў; 18.3.1945 у баі за г. Кольберг знішчыў варожы кулямёт з разлікам; 4.4.1945 з 3 разведчыкамі выбіў ворага з траншэй і вёў бой да падыходу падмацавання. Пасля вайны жыў і працаваў у Мінску.

**ДА́ЛЬВА**, вёска на тэр. Лагойскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася ў Акаловіцкім сельсавеце. Перад вайной у ёй жыло 65 чал. 19.6.1944, у час карнай аперацыі *«Баклан»*, фашысты (т. зв. «баявая група фон Готберга») загубілі 44 жыхароў, вёску (10 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

У 1973 на месцы вёскі створаны мемар. комплекс (скульпт. У. Церабун, прэмія Ленінскага камсамола Беларусі 1974). Размешчаны на адкрытай паляне сярод лесу. Каля дарогі — камень-валун, на якім выбіты надпіс: «Да 19 чэрвеня 1944 г. тут была вёска Дальва. За 10 дзён да вызвалення гітлераўцы жывымі спалілі яе жыхароў». На месцы пажарышча пастаўлены помнік — фігура маці і хлопчыка на фоне 3 сімвалічных абгарэлых бэлек. Справа ад помніка невысокая бетонная сцяна з надпісам: «Людзі, схіліце галовы перад памяццю жыхароў вёскі Дальва, бязвінна загубленых 19 чэрвеня 1944 года». Тут жа пералік загінуўшых. Побач у памяць аб ахвярах пасаджаны 44 бярозкі. Пляцоўкі перад усімі элементамі комплексу, дарожкі, што вядуць да іх, выбрукаваны каменнем, пасыпаны шэрай галькай, што стварае ўражанне выпаленай зямлі.

**ДАМАЧО́ВА,** гар. пасёлак у Брэсцкім р-не. За 52 км на Пд ад Брэста, за 3 км ад чыг. ст. Дамачова на лініі Брэст — Тамашоўка, звязана з аўтадарогай Брэст — Тамашоўка. У 1940—56 цэнтр Дамачоўскага р-на. Ад Д. на Пн пачыналася лінія 62-га Брэсцкага УР. У першы дзень вайны ў раёне Д. ўступілі ў бой з гітлераўцамі палкі 75-й стралк. дывізіі. 22.6.1941 воіны 235-га гаўбічнага арт. палка адбілі шматлікія атакі танкаў і пяхоты гітлераўцаў. Каля в. Чэрск і Д. праціўнік страціў 21 машыну і каля 600 салдат і афіцэраў. 22.6.1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў Д. і раёне каля 20 000 чалавек. У канцы 1941 у Д. фашысты стварылі гета і знішчылі больш за 2700 яго вязняў. 23.9.1943 гітлераўцы каля в. Ляплёўка расстралялі 54 дзіцяці дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту Дамачоўскага дзіцячага дома разам з іх выхавацельніцай. У ноч на 23. 10.1943 партызаны брыгады імя Сталіна разграмілі ахову на чыг. ст. Дамачова, 22.11.1943— фаш. гарнізон у Д. (гл. *Дамачоўскія баі 1943*). На тэр. раёна дзейнічалі *Маларыцка-Дамачоўскі падпольны міжрайком КП(б)Б*, падп. райком ЛКСМБ (9.11. 1943—20.7.1944), *партызанская брыгада імя У. І. Леніна* і *партызанская брыгада 150-я імя Ф. М. Языковіча.* Вызвалена 23.7.1944 воінамі 12-й гвардз. стралк. дывізіі (ген.-маёр Дз. К. Малькоў) 70-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе *Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944.* У Д. брацкія магілы сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі.

*У. М. Якубоўскі.*

**ДАМАЧО́ЎСКІЯ БАІ́ 1943**, баі паміж партызанамі атрадаў імя Варашылава, імя Жукава, *партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна* Брэсцкай вобл. і ням.-фаш. захопнікамі на чыг. ст. Дамачова 23.10.1943 і ў г. п. Дамачова 22.11.1943.

У ноч на 23.10.1943 на чыг. ст. Дамачова-Таварная партызаны атрадаў імя Варашылава (камандзір В. М. Грабнёў) і імя Жукава (В. У. Каткоў) узарвалі ўзведзеныя гітлераўцамі ўмацаванні, разбурылі станцыйнае абсталяванне, спалілі эшалон з хлебам і бульбай, якія былі прызначаны для адпраўкі ў Германію, знішчылі 18 гітлераўцаў. Гарнізон праціўніка ў г. п. Дамачова налічваў каля 150 салдат вермахта, якія размяшчаліся ў 400 м ад пасёлка ў 2-павярховым школьным будынку з цэглы, прыстасаваным для кругавой абароны, і каля 100 салдат паліцыі і жандармерыі, якія размяшчаліся ў найбольш моцных будынках у цэнтры пасёлка. Падрыхтоўка да разгрому гарнізонаў вялася каля 3 тыдняў. У аперацыі ўдзельнічаў партыз. атрад імя Варашылава. Група прыкрыцця перакрыла шашу Брэст — Улодава на перакрыжаванні дарог з вёсак Ляплёўка і Дубіца, зрабіла засады на дарогах з боку вёсак Тамашоўка і Славацічы. Скоўваючая група паралізавала шчыльным агнём праціўніка ў будынку школы. Штурмавая група імклівым кідком захапіла паліцэйскі ўчастак. У выніку бою былі знішчаны памяшканні гарнізона, захоплены зброя, абмундзіраванне, 200 галоў буйной жывёлы і харчаванне, якое акупанты нарабавалі ў насельніцтва. Партызаны вывелі са строю больш за 50 гітлераўцаў, страцілі 2 забітымі і 3 параненымі.

*У. С. Пасэ.*

**ДАМБРО́ЎСКІ** Антон Іосіфавіч (1905, Віцебск —25.2.1943), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Пінскай вобл. Чл. КПСС з 1925. Перад вайной дырэктар Парыцкага леспрамгаса. З 24.6.1941 у знішчальным батальёне, са снеж. 1941 у сав. тыле. Увосень 1942 з дыверсійнай групай накіраваны ў Пінскую вобл., са снеж. камандзір партыз. атрада імя Панамарэнкі, брыгады імя Будзённага, адначасова сакратар Ленінскага падп. РК КП(б)Б. Загінуў у баі.

**ДА́НАЎ** Васіль Іванавіч (20.2. 1913, в. Чарамшанка Цюменцаўскага р-на Алтайскага краю — 29.12.1980), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Вілейскай вобл. Чл. КПСС. З 1932 на пед. рабоце. Удзельнік абароны Віцебска ў 1941. У партызанах з кастр. 1941: камандзір спец. групы, узвода, атрада, у ліп. 1943— ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады 2-й імя А. В. Суворава.* У 1944 на парт. рабоце.

**ДАНІ́ЛАЎ** Аляксей Ільіч (19.1.1923, в. Капцева Навадугінскага р-на Смаленскай вобл.— 30.6.1944), Герой Сав. Саюза (1945). На фронце з 1944. Вызначыўся 30.6.1944 пры вызваленні Барысава. Экіпаж танка ў складзе камандзіра П. М. *Рака,* механіка-вадзіцеля А. А. *Пятраева* і радыста Д. прарваўся ў заняты ворагам горад, 17 гадзін вёў бой, разграміў варожую камендатуру, штаб, падбіў 2 танкі, вызваліў 200 чал. ваеннапалонных. Экіпаж згарэў у танку. Да апошняй хвіліны жыцця Д. дакладваў па радыё аб размяшчэнні агнявых кропак і танкаў праціўніка. У Барысаве экіпажу танка пастаўлены помнік, імя экіпажа прысвоена сярэдняй школе № 1, імем Д. названа вуліца.



Мемарыяльны комплекс **Дальва**. Фрагмент.

раўніцтвам ЦК і абкомаў КП(б)Б. Пасля стварэння ў студз. 1942 пры ЦК ВКП(б) Упраўлення па кіраўніцтву партыз. рухам узмацнілася ўвага да падрыхтоўкі партыз. кадраў. У студз. 1942 пачалі дзейнічаць 3 цэнтр. спецшколы, укамплектаваныя вопытнымі парт. работнікамі і ваен. спецыялістамі. *Паўночна-Заходняя аператыўная група ЦК КП(б)Б* (20.3—15.9.1942) накіравала праз лінію фронту 165 атрадаў і груп (больш за 3 тыс. чал.), у т. л. 27 поўнасцю сфарміраваных атрадаў, 87 арганізатарскіх і 51 дыверсійную групу, а таксама 4250 вінтовак і карабінаў, 630 аўтаматаў, 402 кулямёты, 138 процітанк. ружжаў, 280 мінамётаў, 10 860 дыверсійных мін, 1975 тыс. вінтовачных і аўтаматных патронаў, 40 т прасаванага толу з прыладамі, 18 тыс. ручных гранат і інш. У крас. 1942 ЦК КП(б)Б у адпаведнасці з указаннем ЦК ВКП(б) вырашыў сфарміраваць і накіраваць на акупіраваную тэр. Беларусі 50 невял. партыз. атрадаў агульнай колькасцю 2,5 тыс. чал. З гэтай мэтай у часцях Маскоўскай, Уральскай і Прыволжскай ваен. акруг, а таксама ў парт. і сав. арг-цыях праводзіўся адбор людзей, што жылі да вайны на Беларусі. Яны былі накіраваны на спец. створаныя курсы — *Асобы беларускі збор,* які за май — ліст. 1942 падрыхтаваў 2865 чал., сфарміравана і накіравана ў тыл ворага 15 партыз. атрадаў і 100 груп (у т. л. 60 інструктараў мінна-падрыўной справы і 2318 падрыўнікоў). 28.11.1942 Асобы беларускі збор быў рэарганізаваны ў *«Беларускую школу»,* якая дзейнічала да 18.9.1943 і падрыхтавала 636 чал., а яе прыфрантавы філіял — 310 чал., накіраваных у тыл ворага. Школа рыхтавала камандзіраў-арганізатараў і спецыялістаў мінна-падрыўной справы, разведчыкаў, рэдактараў падп. газет, наборшчыкаў, хімінструктараў, камс. работнікаў і радыстаў. У школе вывучалі тактыку вядзення партыз. вайны, прыёмы барацьбы ворага супраць партызан, вопыт паліт. работы сярод насельніцтва, абучалі навыкам валодання трафейнай зброяй.

Дапамога сав. тылу значна павялічылася, набыла больш эфектыўны і разнастайны характар з вясны 1942, калі з'явіліся Віцебскія «вароты» і стала магчымым выкарыстанне іх, а з лета 1942 і авіяцыі. Вялікую ролю ў паляпшэнні забеспячэння партызан мелі прынятыя ў чэрв. 1942 пастановы Дзярж. к-та абароны аб уключэнні ЦШПР, франтавых штабоў партыз. руху, пазней БШПР у сістэму забеспячэння Наркамата абароны. Партыз. рух забяспечваўся зброяй і боепрыпасамі праз Гал. арт. ўпраўленне Чырв. Арміі, рэчавай маёмасцю праз Наркамат гандлю СССР, Гал. інтэнданцкае ўпраўленне Чырв. Арміі, Наркамат знешняга гандлю СССР, харчовымі прадуктамі праз Гал. ўпраўленне харчовага забеспячэння Чырв. Арміі. Тэхнічнае забеспячэнне сродкамі сувязі ажыццяўлялася пераважна праз Гал. ўпраўленне сувязі Чырв. Арміі, мед. маёмасцю — праз Гал. ваен.-мед. ўпраўленне Чырв. Арміі, Чырв. Крыж і падарункавы фонд ад працоўных Сав. Саюза. З пачатку вайны ад арганізацый БШПР у вер.— кастр. 1942 нар. мсціўцы Беларусі атрымалі 13 810 вінтовак і карабінаў, 895 аўтаматаў, 4252 пісталеты розных відаў і сістэм, 257 кулямётаў, 280 мінамётаў, 3150 мін да мінамётаў, 53,68 млн. вінтовачных патронаў, вял. колькасць інш. зброі, боепрыпасаў, мінна-падрыўной тэхнікі. У 1941 былі абмундзіраваны 3463 чал., якія накіроўваліся на акупіраваную тэр. Беларусі. Вялікую работу па забеспячэнню партыз. фарміраванняў узбраеннем, боепрыпасамі правёў аддзел матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння БШПР. Толькі з 15.9.1942 да 1.1.1943 партызаны атрымалі 3762 аўтаматы, 2106 карабінаў, 2207 вінтовак, 444 кулямёты, 212 процітанк. ружжаў, 294 мінамёты, міны, патроны, больш за 16 т толу, капсулі, бікфордаў і дэнатарныя шнуры, 24 рацыі, 150 камплектаў сілкавання да іх і інш. Рост ваенна-эканамічнага патэнцыялу краіны садзейнічаў павелічэнню дапамогі сав. тылу партыз. руху. У 1943 партызаны атрымалі вінтовак і карабінаў у 3,9, аўтаматаў у 2,8, кулямётаў у 2,3, мінамётаў у 1,2, процітанк. ружжаў у 4,8, пісталетаў і наганаў амаль у 2,2 раза больш, чым у 1942. Дастаўка боепрыпасаў і ручных гранат павялічылася ў 11 разоў. У 1-й пал. 1944 партызанам даслана 16226 вінтовак, аўтаматаў, кулямётаў і пісталетаў, 125 мінамётаў і 361 процітанк. ружжо, боепрыпасаў столькі ж, колькі за ўвесь 1943. Усяго з сав. тылу партызаны Беларусі атрымалі 1348 мінамётаў, 1383 процітанк. ружжа, 2674 кулямёты, 18 684 аўтаматы, 41 776 вінтовак і карабінаў, больш за 74,4 млн. патронаў, каля 188,4 тыс. гранат, 58 624 міны да мінамётаў, 553 т толу і інш.

З крас. 1942 з сав. тылу партызанам пачалі дастаўляць радыёстанцыі. Да канца 1942 сотні партыз. атрадаў наладзілі двухбаковую сувязь з ЦК КП(б)Б, ЦШПР і БШПР. Да канца 1943 радыёсувяззю былі ахоплены ўсе вобласці Беларусі. На 1.1.1944 партызаны мелі 123 радыёстанцыі, з іх 110 належыла ЦШПР і БШПР, да ліп. 1944 колькасць радыёстанцый павялічылася да 168. Да гэтага часу ўсе партыз. злучэнні, буйныя брыгады, многія атрады і падп. цэнтры падтрымлівалі радыёсувязь з БШПР, а некаторыя і са штабамі франтоў. Вялікую ролю ў развіцці і кіраўніцтве партыз. рухам адыгралі радыёвузлы ЦШПР і БШПР. Акрамя цэнтр. і перасоўнага радыёвузлоў, важнае значэнне меў радыёвузел прадстаўніцтва БШПР на 1-м Прыбалт. фронце. Ён абслугоўваў партызан Віцебскай, Вілейскай і паўн. часткі Мінскай абл. Такія ж функцыі выконвалі радыёвузлы аператыўнай групы БШПР на 1-м, 2, 3-м Бел. франтах. Амаль усе

Л. С. Данілюк. А. Ф. Данукалаў.





Разбор медыцынскага інвентару і прэпаратаў, дастаўленых партызанам з-за лініі фронту. Пінская вобл.

310 радыстаў, накіраваных на тэр. Беларусі, наладзілі сувязь з Вял. зямлёй і падтрымлівалі яе да злучэння з часцямі Чырв. Арміі.

Пасля стварэння ЦШПР і БШПР забеспячэнне партызан перавязачным матэрыялам, медыкаментамі і хірургічным інструментам набыло сістэматычны характар. З чэрв. 1942 медыкаменты з сав. тылу дастаўлялі пераважна самалётамі. Асабліва вял. і важную работу правялі Гал. ваен.-мед. ўпраўленне Чырв. Арміі,

а таксама працоўныя Казані, Горкага і інш. гарадоў у сав. тыле. Медыцынскае абслугоўванне партызан значна палепшылася пасля стварэння ў сак. 1943 мед.-сан. аддзела БШПР, які забяспечваў партыз. злучэнні мед. кадрамі, медыкаментамі і маёмасцю, займаўся эвакуацыяй параненых, барацьбой з эпідэмічнымі захворваннямі. У 1943 мед.-сан. аддзел БШПР выдаваў усім, хто накіроўваўся ў тыл ворага, індывідуальныя аптэчкі. Партызанам дастаўляўся спец. медгруз, у якім былі хірургічны набор і інш. сродкі хуткай мед. дапамогі. Усяго ў 1943 з сав. тылу партыз. злучэнням Беларусі было перапраўлена каля 26 т мед. грузаў. Па даных медсанаддзела БШПР толькі за 1943 у сав. тыл было вывезена 1907 параненых і хворых партызан. У канцы 1943 — пач. 1944 на Беларусі ўзнікла эпідэмія сыпнога тыфу. Дзякуючы дапамозе сав. тылу мед. персанал партызан правёў вял. прафілактычную работу ў партыз. зонах: былі зроблены 81322 прышчэпкі супраць тыфу



Пагрузка літаратуры ў самалёт для адпраўкі ў варожы тыл.

і інфекцыйных страўнікава-кішачных захворванняў. Такія ж прышчэпкі былі зроблены таксама мясцоваму насельніцтву ў многіх зонах дзеяння партызан. Партызаны Беларусі з кастр. 1943 і да пач. лютага 1944 атрымалі 181 тыс. см³ процітыфознай вакцыны. На працягу 1943 і да 20 чэрв. 1944 ім было дастаўлена з сав. тылу 44 318 кг медыкаментаў, эвакуіравана на Вял. зямлю 6617 чал. (15 % параненых і хворых партызан).

За гады вайны агульная вага грузаў з адзеннем, абуткам і прадуктамі, атрыманых партызанамі Беларусі, склала 2 317 910 кг. Абмундзіраванне, адзенне атрымалі 44 667 партызан і членаў іх сем'яў, эвакуіраваных з варожага тылу. Партызанам і членам іх сем'яў выдадзена 886 622 сутачныя пайкі харчавання.

Вялікай матэрыяльнай і маральнай падтрымкай нар. мсціўцам былі падарункі сав. працоўных з розных канцоў краіны: з Новасібірскай вобл. 4685 пасылак з абмундзіраваннем і харчамі, з Казані 4 тыс. пар валёнак, 11,7 тыс. шапак-вушанак, 7058 пар футравых рукавіц, 250 футравых камбінезонаў і брызентавых плашчоў, 2,4 тыс. целагрэек і ватных нагавіц, 35 тыс. індывідуальных аптэчак, а таксама мыла, шакалад, цукеркі, пячэнне, тытунь, папера і інш.

У сав. тыле праводзіўся збор сродкаў у фонд дапамогі партызанам. На сродкі, сабраныя жыхарамі Чкалаўскай вобл., партызаны Беларусі атрымалі 450 снайперскіх вінтовак, 3 паходныя аўтарамонтныя майстэрні і 600 пасылак з адзеннем і харчамі.

Баявым поспехам партыз. злучэнняў і атрадаў садзейнічала падтрымка сав. авіяцыі. Пасля арганізацыі партыз. баз на падмаскоўных Унукаўскім, Чкалаўскім і інш. аэрадромах, а таксама стварэння ў партыз. зонах аэрадромаў і пунктаў парашутнага выкіду (гл. *Партызанскія аэрадромы*) палёты ў варожы тыл сталі рэгулярнымі. Выконваючы загады сав. камандавання і БШПР, транспартная авіяцыя Грамадз. паветр. флоту СССР, 101-га палка авіяцыі далёкага дзеяння і франтавая авіяцыя Зах. і Калінінскага франтоў у 1942 здзейснілі 168 самалёта-вылетаў да партызан Беларусі, перавезлі да іх 118 т баявых грузаў, 200 парт. работнікаў, кіраўнікоў партыз. руху, радыстаў, інструктараў мінна-падрыўной справы. З тылу ворага было вывезена 180 чал. У 1943 авіяцыя была амаль адзіным сродкам дастаўкі баявых грузаў бел. партызанам. Толькі ў 1943 партызаны абсталявалі 18 аэрадромных пляцовак і больш за 50 месцаў выкідаў грузаў. Аэрадромамі, якія знаходзіліся ў партыз. зонах Беларусі, карысталіся Гал. разведвальнае ўпраўленне Чырв. Арміі, НКУС СССР, НКУС БССР, Украінскі, Літоўскі і Латвійскі штабы партыз. руху. У 1943 яны прынялі сотні самалётаў з людзьмі і грузамі, якія накіроўваліся ў тыл ворага. Для наладжвання аэрадромнай службы пры 1-й авіятранспартнай дывізіі Грамадз. паветр. флоту было падрыхтавана і закінута ў тыл ворага 12 спецыялістаў — нач. партыз. аэрадромаў, дзе яны арганізавалі службу і ажыццяўлялі прыём і адпраўку самалётаў. Авіяцыя выкарыстоўвалася для перадачы дырэктыў кіруючых органаў, транспарціроўкі газет, часопісаў, лістовак, дастаўкі ў сав. тыл разведвальных інфармацыйных звестак, баявых данясенняў, эвакуацыі ў сав. тыл параненых і хворых партызан, дзяцей. З дырэктывамі і даручэннямі ЦК КП(б)Б, ЦШПР і БШПР у партыз. злучэнні ў 1943 самалётамі былі накіраваны 1626 парт. кіраўнікоў, камандзіраў партыз. злучэнняў, афіцэраў сувязі, інструктараў і інш.

У 1943 для транспарціроўкі ваеннай маёмасці партызанам упершыню былі выкарыстаны планёры. Авіяпланёрнымі групамі паветрана-дэсантных войск былі ажыццёўлены, напрыклад, 2 аперацыі па дастаўцы людзей і грузаў партызанам Віцебскай, Вілейскай і паўн. часткі Мінскай абл. 6—20.3.1943 з аэрадрома г. Старая Таропа аператыўнай групай БШПР на Калінінскім фронце паспяхова праведзена 85 вылетаў планёрамі на партыз. аэрадромы (Бягомль, Сляўшчына, Роўнае Поле, Забор'е, Рыбакі), перакінута 50 т грузаў і 256 чал. Аперацыя праводзілася ў час цяжкіх баёў нар. мсціўцаў з намнога большымі сіламі гітлераўцаў у Віцебскай і Мінскай абл. 20.4—24.5.1943 з 4 аэрадромаў Калінінскага фронту зроблена 214 вылетаў, дастаўлена планёрамі 164,5 т грузаў і 216 чал., у сав. тыл вывезена 116 чал. і 2,5 т грузаў. Вялікую дапамогу ў перыяд падрыхтоўкі і правядзення «рэйкавай вайны» аказалі ЦК КП(б)Б, ЦШПР і БШПР. Для ажыццяўлення першых 2 этапаў аперацыі (жн.—пач. лістапада 1943) самалёты авіяцыі далёкага дзеяння, Грамадз. паветр. флоту і авіяцыя Калінінскага (з 20.10.1943 1-ы Прыбалтыйскі) фронту закінулі на Беларусь 370 т баявых грузаў, ажыццявілі больш за 400 вылетаў у тыл ворага. Для вядзення «рэйкавай вайны» да партызан былі накіраваны высокакваліфікаваныя спецыялісты-падрыўнікі, афіцэры-сувязісты, якія дапамагалі партызанам рыхтаваць і праводзіць аперацыі на камунікацыях. Яны ажыццяўлялі размеркаванне баявых грузаў з Вял. зямлі, рыхтавалі інструктараў-мінёраў і падрыўнікоў, праводзілі агітацыйна-масавую работу сярод насельніцтва. У 1944 гітлераўцы ўзмацнілі барацьбу супраць партызан. Праводзячы беспярэпынныя баі з праціўнікам, нар. мсціўцы адчувалі недахоп боепрыпасаў, медыкаментаў. У гэты час тыл павялічыў дапамогу партызанам, якая ажыццяўлялася ў 1944 праз 21 партыз. аэрадром для цяжкіх самалётаў і 20 — для лёгкіх самалётаў, а таксама 83 пункты выкіду грузаў на парашутах. Аператыўная дапамога авіяцыі партызанам была асабліва неабходна ў час карных аперацый варожых войск. Так, у маі 1944 брыгады імя Леніна, імя Будзённага і атрад імя Чуклая больш тыдня вялі цяжкія баі з фашыстамі, якія наступалі на Пінскую зону. Атрымаўшы

дастатковую колькасць боепрыпасаў, якія былі своечасова дастаўлены авіяцыяй з Вял. зямлі, партызаны заставілі карнікаў адступіць у свае гарнізоны. Цяжкія баі вялі ў 1944 партызаны Полацка-Лепельскай зоны. Па іх просьбе камандаваннем 1-га Прыбалт. фронту з сав. тылу было адпраўлена ў партыз. зону больш за 10 транспартных самалётаў са зброяй і боепрыпасамі. Усяго ў студз. 1944 сюды было перакінута 24,4 т баявых грузаў, у лютым 15,6, у сак.— крас. больш як 250 т. Савецкая авіяцыя таксама дапамагала партызанам, калі бамбіла войскі карнікаў, іх рэзервы ў Лепелі, Полацку, Крулеўшчыне, прыкрывала партыз. раёны ад налётаў варожых бамбардзіроўшчыкаў. Гэта дапамагло партызанам прарваць варожае кальцо акружэння і вывесці ў лясы больш за 15 тыс. мясцовых жыхароў. У сярэдзіне крас. 1944 фашысты блакіравалі Барысаўска-Бягомльскую партыз. зону. Калі карнікі акружылі партызан у раёне воз. Палік, сав. авіяцыя своечасова нанесла па іх моцныя бомбавыя ўдары.

За час акупацыі Беларусі сав. авіятары здзейснілі 5945 самалёта-вылетаў да партызан, даставілі ў тыл праціўніка 2403,4 т разнастайных грузаў, перавезлі з Вял. зямлі 2626 чал. і вывезлі з партыз. зон каля 9 тыс. чал.

З чэрв. 1941 да ліп. 1944 у тыл ворага на тэр. Беларусі былі накіраваны 3 партыз. брыгады, 41 атрад, 514 груп (10 145 чал.). У спецшколах і іх філіялах прайшлі падрыхтоўку 9273 чал.: 265 камандзіраў атрадаў і кіраўнікоў груп, 291 інструктар мінна-падрыўной справы, 8237 падрыўнікоў, 251 радыст, 229 камсам. работнікаў. Агульная колькасць кадраў, засланых з сав. тылу на акупіраваную тэр. Беларусі, склала больш за 11,5 тыс. чал.

Пасланцы партыі многа зрабілі ў тыле ворага па стварэнню і павышэнню баяздольнасці партыз. атрадаў і брыгад, разгортванні шырокай сеткі падп. парт. і камсамольскіх арг-цый. Партызанскія атрады і групы, засланыя з сав. тылу, вырасталі на базе шырокага нар. супраціўлення захопнікам у буйныя фарміраванні. Савецкі тыл аказаў партыз. руху на Беларусі велізарную матэрыяльную, ваен., маральную і паліт. дапамогу, якая з'явілася найважнейшай умовай паспяховай барацьбы нар. мсціўцаў супраць ням.-фаш. захопнікаў. Дапамога сав. тылу партыз. руху ўмацавала баявую садружнасць арміі, партызан і сав. тылу, ператварыла іх у пераможную сілу.

*М. А. Якубоўскі.*

**ДАПАМО́ГА ФРО́НТУ** усенародная, масавы добраахвотніцкі рух сав. людзей па аказанню ўсебаковай падтрымкі Чырв. Арміі і ВМФ, павышэнню іх магутнасці, узбраення і забеспячэння. Гэта патрыятычнае пачынанне працоўных, ухваленае ЦК ВКП(б), узначалілі мясцовыя парт., сав., прафс., камсам. і інш. грамадскія арг-цыі. Выражалася ў розных формах: ва ўдарнай працы на вытворчасці і ў сельскай гаспадарцы, у масавым добраахвотным уступленні ў Чырв. Армію, *народнае апалчэнне*, у дапамозе Чырв. Арміі грашовымі і матэрыяльнымі сродкамі, у разгортванні ўсесаюзнага сацыяліст. спаборніцтва, правядзенні камуніст. нядзельнікаў, у руху за стварэнне *фонду абароны*, фонду здароўя абаронцаў Радзімы, донарства, у зборы сродкаў на будаўніцтва танк. калон, авіяэскадрылляў, бронепаяздоў і баявых караблёў, у пісьмах і падарунках франтавікам, клопаце сав. людзей аб сем'ях франтавікоў, інвалідах вайны і інш. Пастановай ЦК ВКП(б) ад 6.10.1941 абкомы, крайкомы і ЦК кампартый саюзных рэспублік абавязваліся да 15.10.1941 зацвердзіць састаў абл., краявых і рэсп. к-таў дапамогі па абслугоўванню хворых і параненых байцоў і камандзіраў Чырв. Арміі. Вясной 1943 пачаўся рух за стварэнне фонду Гал. камандавання за кошт перавыканання кожным ваен. прадпрыемствам гадавой вытворчай праграмы. За гады вайны агульныя паступленні грашовых сродкаў ад насельніцтва краіны ў фонд абароны, па дзярж. пазыках і латарэях склалі 118 млрд. руб.; на добраахвотныя ўзносы сав. людзей было пабудавана больш за 2,5 тыс. баявых самалётаў, некалькі тысяч танкаў і арт. гармат, дзесяткі бронепаяздоў, 20 падводных лодак і ваен. катэраў; сабраны дзесяткі млн. кажухоў, валёнак, шапак-вушанак і інш. цёплых рэчаў, у якія можна было адзець і абуць каля 10 млн. воінаў. 10.3.1943 газ. «Праўда» паведамляла, што працоўныя БССР, эвакуіраваныя ў сав. тыл, і партызаны рэспублікі ўнеслі на будаўніцтва самалётаў і бронепаяздоў «Савецкая Беларусь» каля 5,4 млн. руб. Значную дапамогу фронту аказвала насельніцтва вызваленых ад ням.-фаш. захопнікаў раёнаў рэспублікі. Восенню 1943 — вясной 1944 у выніку мабілізацыі мужчынскага насельніцтва Беларусі Чырв. Армія атрымала больш за 100 тыс. чал. папаўнення. На будаўніцтва танк. калон жыхары Гомеля сабралі 3 млн. руб., працоўныя Рэчыцкага р-на — 2 млн. 350 тыс., Лёзненскага р-на — 900 тыс. руб. Калгаснікі 8 вызваленых раёнаў Магілёўскай вобл. ў кароткі тэрмін здалі для Чырв. Арміі 37,3 тыс. ц хлеба, 150,2 тыс. ц бульбы, 8,1 тыс. ц агародніны, 7,8 тыс. ц мяса, 4 раёнаў Віцебскай вобл. — 3,8 тыс. ц збожжа, каля 50 тыс. ц бульбы і інш. прадуктаў. За 3 месяцы 1944 і за 1945 донары рэспублікі далі для патрэб фронту больш за 8 тыс. л крыві. Справай усяго народа быў клопат аб параненых сав. воінах. У пачатку студз. 1945 толькі ў Магілёўскай, Віцебскай, Гомельскай, Мінскай, Брэсцкай абласцях працавалі 64 шпіталі, над якімі шэфствавалі розныя арг-цыі, працоўныя, моладзь, школьнікі рэспублікі. Камсамольцы і моладзь Гомельскай вобл. перадалі параненым воінам больш за 120 тыс. падарункаў. Д. ф. была адной з крыніц росту сілы і баявой магутнасці Чырв. Арміі, праяўленнем маральна-паліт. адзінства сав. народа, яго высокага патрыятызму.

*У. І. Лемяшонак.*

**ДАЎБЕ́ШКІН** Пётр Лукіч (8.10.1912, в. Паўлавічы Віцебскага р-на — 3.10.1943), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1931. Скончыў Віцебскі фінансава-эканамічны тэхнікум (1934), Сумскае арт. вучылішча (1937). У Чырв. Арміі з 1934. З 1941 на Калінінскім, Бранскім, Цэнтр., 1-м Укр. франтах. Капітан Д. вызначыўся ў баях за вызваленне Украіны. 22.9.1943 мінамётны дывізіён на чале з Д. пад моцным арт. абстрэлам і бамбардзіроўкай фарсіраваў Дняпро на ПдЗ ад Пераяслава-Хмяльніцкага і на захопленым плацдарме адбіў 8 контратак. Загінуў у баі. Пахаваны ў с. Ташань Кіеўскай вобл. На доме, дзе нарадзіўся Д., і на будынку школы ў в. Ноўка Віцебскага р-на, дзе вучыўся, мемар. дошкі.



Эвакуацыя дзяцей на Вялікую зямлю. Лепельская партызанская брыгада імя І. В. Сталіна. Віцебская вобл.

**ДАЎГІНАЎСКІ БОЙ 1943,** бой паміж *партызанскай брыгадай «Жалязняк»* і ням.-фаш. акупантамі ў г. п. Даўгінава Крывіцкага р-на 26.3.1943. Добра ўмацаваны ням.-фаш. гарнізон у Даўгінаве (каля 300 чал.) быў адным з апорных пунктаў, якія прыкрывалі падыход да чыгункі Маладзечна — Полацк, базай для правядзення карных аперацый, захавання і перапрацоўкі нарабаванай сельгаспрадукцыі. Пасля выгнання гітлераўцаў з Бягомля (гл. *Бягомльская аперацыя 1942*) і разгрому партызанамі Докшыцкага гарнізона (гл. *Докшыцкі бой 1943*) знаходзіўся ў павышанай баявой гатоўнасці. Камандаванне партыз. бры-

гады «Жалязняк» прыняло рашэнне нанесці ўдар па гарнізоне не ўначы, калі гітлераўцы былі асабліва пільнымі, а за некалькі гадзін да наступлення цемры. Для прыкрыцця на небяспечныя напрамкі былі высунуты засадныя групы. У 18 гадз пры падтрымцы батарэі 45-мм гармат 3 атрады з ПнЗ, ПнУ і Пд атакавалі Д., уварваліся ў цэнтр і пачалі знішчаць склады і прадпрыемствы. 27.3.1943 да 7 гадз усе атрады і засадныя групы вярнуліся амаль без страт на зборны пункт. Актыўнымі баявымі дзеяннямі партыз. брыгад «Жалязняк», «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага, імя Кутузава гарнізон у Даўгінаве быў паралізаваны да вызвалення ад ням. фаш. захопнікаў Чырв. Арміяй. *У. С. Пасэ.*

П. Л. Даўбешкін. Л. В. Дземянкоў.



**ДАЎЖАНКО́ВА** Вольга Сцяпанаўна (н. 14.7.1913, в. Свабода Куркінскага р-на Тульскай вобл.), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсам.-маладзёжнага падполля і партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1940. Скончыла ВПШ пры ЦК КПСС (1956). З 1940 на камсам. рабоце. З 18.7.1942 у тыле ворага. З 23.9.1943 да 28.6.1944 сакратар *Магілёўскага падпольнага абкома ЛКСМБ.* У 1945—67 на парт. і адм. рабоце.

**ДВАЦЦА́ТАЯ А́РМІЯ,** сфарміравана ў чэрв. 1941 у Арлоўскай ваен. акрузе.

У яе склад увайшлі 61-ы і 69-ы стралк., 5-ы і 7-ы механіз. карпусы, 18-я стралк. дывізія і інш. злучэнні і часці. 2.7.1941 Стаўкай ВГК перададзена ў склад Зах. фронту.

Удзельнічала ў абарончых баях супраць ням.-фаш. захопнікаў на тэр. Беларусі, у нанясенні ў ліп. 1941 контрудару ў напрамку Сянно — Лепель, у баях за Віцебск (гл. *Лепельскі контрудар 1941, Віцебска абарона 1941*). Да сярэдзіны ліп. часці арміі вялі баявыя дзеянні на абарончых рубяжах Рудня — Орша, дзе скоўвалі вял. варожыя сілы, якія наступалі на Смаленск. Прымала ўдзел у *Смаленскай бітве 1941.* У вер. вяла абарончыя баі на Пд ад Ярцава, у кастр. ўдзельнічала ў Вяземскай аперацыі. Пасля прарыву ворагам фронту апынулася ў акружэнні, выйшла на мажайскую лінію абароны. Да 20.10.1941 расфарміравана, яе часці перададзены на ўкамплектаванне інш. злучэнняў і часцей фронту.

Камандуючыя: ген.-лейт. Ф. М. Рэмезаў (чэрв.-ліп. 1941), ген.-лейт. П. А. Курачкін (ліп.-жн. 1941), ген.-лейт. М. Ф. Лукін (жн.-вер. 1941), ген.-лейт. П. А. Ершакоў (вер.-кастр. 1941). У гонар войск 20-й арміі ў г. п. Багушэўск у 1964 пастаўлена стэла. *М. І. Камінскі.*

**ДВА́ЦЦАЦЬ ВО́СЬМАЯ А́РМІЯ** 3-га фарміравання. Сфарміравана ў вер. 1942 у Сталінградскай ваен. акрузе.

У яе склад ўвайшлі 34-я гвардз. і 248-я стралк. дывізіі, 52-я, 152-я і 159-я стралк. брыгады, 78-ы і 116-ы умацаваныя раёны і інш. злучэнні і часці. Уваходзіла ў склад Паўд.-Усх., Сталінградскага, Паўд., 4-га і 3-га Укр. франтоў. З чэрв. 1944 у складзе 1-га Бел. фронту. У перыяд *Беларускай аперацыі 1944* у яе склад уваходзілі: 3-і гвардз., 20-ы і 128-ы стралк. карпусы, 119-ы, 153-і і 161-ы ўмацаваныя раёны, 30-ы гвардз. танк. і 347-ы гвардз. самаходны арт. палкі, 3 самаходныя арт. палкі. арт. і мінамётныя злучэнні і часці.

Прымала ўдзел у *Бабруйскай аперацыі 1944,* дзе ў цяжкіх умовах лясіста-балоцістай мясцовасці прарвала абарону ворага на парыцкім напрамку і з баямі на працягу месяца прайшла да 400 км. У час *Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944* фарсіравала Зах. Буг у раёне Брэста, перасекла дзярж. граніцу СССР і працягвала наступленне на тэр. Польшчы. З сярэдзіны кастр. 1944 у складзе 3-га Бел. фронту ўдзельнічала ва Усх.-Прускай аперацыі 1945, з крас. 1945 у складзе 1-га Укр. фронту ўдзельнічала ў Берлінскай і Пражскай аперацыях.

Камандуючыя: ген.-лейт. В. П. Герасіменка (вер. 1942 — ліст. 1943), ген.-лейт. А. А. Грэчкін (ліст. 1943 — май 1944), ген.-лейт. А. А. Лучынскі (май 1944 — май 1945). *М. І. Камінскі.*

**ДВА́ЦЦАЦЬ ДРУГА́Я А́РМІЯ.** Сфарміравана ў чэрв. 1941 ва Уральскай ваен. акрузе. У яе склад ўвайшлі 51-ы і 62-і стралк. карпусы, арт. і інш. часці. У канцы чэрв. 1941 пачала прасоўвацца ў раён Полацка. 2.7.1941 перададзена ў склад Зах. фронту. Не закончыўшы канцэнтрацыю і разгортванне, 9.7.1941 пачала баі з ворагам на рубяжы Ідрыца — Дрыса — Віцебск, удзельнічала ў *Віцебска абароне 1941.* У далейшым усе 6 дывізій арміі ўдзельнічалі ў жорсткіх баях на велікалуцкім напрамку. З кастр. 1941 у складзе Калінінскага, з крас. 1943 — Паўн.-Зах., з кастр. 1943 — 2-га Прыбалт., з крас. 1945 — Ленінградскага франтоў. Перададзена ў рэзерв Стаўкі ВГК і накіравана на фарміраванне Таўрычаскай ваен. акругі.

Камандуючыя: ген.-лейт. П. А. Ершакоў (чэрв.— жн. 1941), ген.-маёр, з 21.3.1943 ген.-лейт. В. А. Юшкевіч (жн.—кастр. 1941, крас.— снеж. 1942 і сак. 1943 — крас. 1944), ген.-маёр У. Ваструхоў (кастр. 1941 — сак. 1942), ген.-маёр Дз. М. Селязнёў (снеж. 1942 — сак. 1943), ген.-лейт. Г. П. Каратков (крас. 1944 — май 1945). *М. І. Камінскі.*

**ДВА́ЦЦАЦЬ ПЁРШАЯ А́РМІЯ** 1-га фарміравання. Сфарміравана ў чэрв. 1941 у Прыволжскай ваен. акрузе.

У яе склад увайшлі 63-і і 66-ы стралк. карпусы, 25-ы механіз. корпус, арт. і інш. часці.

З ліп. да вер. 1941 вяла абарончыя і наступальныя баі на Беларусі з ням.-фаш. войскамі ў складзе Зах., з 30.7.1941 Цэнтр., з 25.8.1941 Бранскага франтоў. Яе войскі ва ўпартых абарончых баях адбілі наступленне намнога большых сіл праціўніка на Дняпры, армія сіламі 63-га стралк. корпуса правяла *Рагачоўска-Жлобінскую аперацыю 1941,* вяла *Гомеля абарону 1941.* З 2.9.1941 армія ў складзе Паўд.-Зах. фронту прымала ўдзел у Кіеўскай аперацыі 1941 і ў Харкаўскай аперацыі 1942. З ліп. 1942 у складзе Сталінградскага і Данскога франтоў удзельнічала ў Сталінградскай бітве 1942—43. У крас. 1943 за баявыя заслугі і высокае ваеннае майстэрства асабовага складу пераўтворана ў 6-ю гвардз. армію.

Камандуючыя: ген.-лейт. В. П. Герасіменка (чэрв.-ліп. 1941), ген.-палк. Ф. І. Кузняцоў (ліп.-кастр. 1941), ген.-лейт. М. Р. Яфрэмаў (ліп.-жн. 1941), ген.-маёр В. М. Гардоў (жн. 1941 і кастр. 1941 — чэрв. 1942), ген.-лейт. В. І. Кузняцоў (жн. — вер. 1941), ген.-маёр А. І. Данілаў (чэрв.— кастр. 1942), ген.-лейт. І. М. Чысцякоў (кастр. 1942 — крас. 1943). *М. І. Камінскі.*

**ДЗЕВЯТНА́ЦЦАТАЯ А́РМІЯ** 1-га фарміравання. Сфарміравана ў чэрв. 1941 у Паўн.-Каўказскай ваен. акрузе.

У яе склад увайшлі 25-ы, 34-ы стралк. і 26-ы механіз. карпусы, 38-я стралк. дывізія і шэраг асобных часцей.

Знаходзілася ў рэзерве Стаўкі ВГК. У пачатку ліп. 1941 перададзена ў склад Зах. фронту і ўступіла ў цяжкія абарончыя баі з намнога большымі сіламі ням.-фаш. войск на віцебскім напрамку, вяла *Віцебска абарону 1941,* удзельнічала ў нанясенні франтальнага контрудару ў раёне Віцебска. Прымала ўдзел у Смаленскай бітве 1941, у Вяземскай аперацыі 1941. Пасля выхаду часткі войск арміі з акружэння перафарміравана і ў ліст. 1941 пераўтворана ў 1-ю ўдарную армію.

Камандуючыя: ген.-лейт. І. С. Конеў (чэрв.— вер. 1941), ген.-лейт. М. Ф. Лукін (вер.— кастр. 1941), ген.-лейт. І. В. Болдзін (кастр.— ліст. 1941). *М. І. Камінскі.*

**ДЗЕГІРЭ́ЎСКІ** Леанід Іосіфавіч (1.10.1895, в. Тышоўцы, Люблінская губерня — вер. 1943), адзін з кіраўнікоў *Гомельскага партыйнага падполля.* Чл. КПСС з 1925. Удзельнік грамадз. вайны. Перад Айч. вайной старшыня Жлобінскага райвыкан-

кома. З першых дзён вайны ў атрадзе нар. апалчэння. У вер. 1941 у Гомелі арганізаваў і ўзначаліў падп. групу. Падпольшчыкі на чале з Д. рабілі дыверсіі на чыг. вузле, парушалі тэлефонна-тэлеграфную сувязь праціўніка. У чэрв. 1943 схоплены гітлераўцамі, пасля катаванняў загублены.

**ДЗЕ́ДЗІК** Павел Іванавіч (28.3.1901, в. Свірыдавічы Рэчыцкага р-на — 29.1.1985), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Гомельскай вобл. Чл. КПСС з 1927. З 1926 на сав., журналісцкай і парт. рабоце. У жн. 1941 — ліп. 1943 2-гі сакратар Чачэрскага падп. РК КП(б)Б, адначасова з кастр. 1941 камісар атрада, у сак.— жн. 1943 — *партызанскай брыгады 1-й Гомельскай.* Да 1965 на парт. рабоце.

**ДЗЕМЯНКО́Ў** Лаўрэнцій Васілевіч (н. 15.7.1918, в. Сакалоўка Чэрыкаўскага р-на), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1943. Скончыў 1-е Омскае ваен. пях. вучылішча (1941), Усесаюзны завочны фінансава-эканамічны ін-т (1959). З сак. 1942 на Ленінградскім і Карэльскім франтах. Камандзір стралк. ўзвода лейтэнант Д. вызначыўся 21.6.1944 пры фарсіраванні р. Свір і прарыве абароны праціўніка ў раёне г. Ладзейнае Поле Ленінградскай вобл. Гранатамі знішчыў 2 варожыя дзоты, чым садзейнічаў поспеху наступлення сав. войск. 23.6.1944 тройчы штурмаваў варожыя траншэі, паранены, не пакінуў поля бою. Палкоўнік у адстаўцы.

**ДЗЕМЯШКЕ́ВІЧ** Адам Станіслававіч (1.11.1902, г. Орша — 12.9.1962), ген.-лейт. авіяцыі (1959). Чл. КПСС з 1926. У Чырв. Арміі з 1920. Скончыў Васн. акадэмію імя Фрунзе (1934). З 1941 на Зах., 1-м Бел. франтах. Удзельнік абароны Масквы, Ленінграда, вызвалення Польшчы, баёў за Берлін. Пасля вайны на адказных пасадах у Сав. Арміі, нам. нач. Ваенна-паветр. акадэміі.

**ДЗЕНІСЕ́НКА** Дзмітрый Анісімавіч (н. 22.3.1917, станіца Пластуноўская Дзінскога р-на Краснадарскага краю), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1945. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КПБ (1952). У чэрв. 1941 на фронце. У партызанах з мая 1942, з жн. 1942 камандзір атрада, кав. дывізіёна, у крас.— ліп. 1944 — *партызанскай брыгады 1-й Беларускай кавалерыйскай.* У 1944—79 на сав. і адм.-гасп. рабоце.

**ДЗЕНІСЕ́НКА** Іван Піліпавіч (1913, в. Наркі Чэрыкаўскага р-на — 5.7.1943), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Чэрыкаўскага патрыятычнага падполля, журналіст, паэт. Чл. ВЛКСМ. У 1937—41 на журналісцкай рабоце. Аўтар паэмы аб пагранічніку «Сямён Лагода» (1938). У пач. вайны ўзначаліў падп. групу на радзіме. З ліст. 1941 па заданні Чэрыкаўскага падп. РК КП(б)Б працаваў ва ўстановах ворага ў Чэрыкаве, збіраў і перадаваў звесткі разведкі. У горадзе і навакольных вёсках арганізаваў падп. патрыятычныя групы, якія рабілі дыверсіі на варожых аб'ектах, збіралі каштоўную інфармацыю аб праціўніку, распаўсюджвалі сярод насельніцтва лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро. Падтрымліваў сувязь с партызанамі. У чэрв. 1943 схоплены гітлераўцамі, пасля катаванняў расстраляны. У турме напісаў некалькі вершаў, прасякнутых верай у перамогу. У Чэрыкаве на будынку б. турмы ў 1967 устаноўлена мемар. дошка.

**ДЗЕНЬ ПЕРАМО́ГІ**, гл. *Свята Перамогі.*

**ДЗЕ́РБАН** Мікалай Лявонавіч (н. 15.5. 1907, в. Локаць Бярэзінскага р-на), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1929. У Чырв. Арміі з 1929. Удзельнік абароны Мінска ў 1941. З 1941 кіраўнік падп. групы, якая дзейнічала ў Бярэзінскім і Барысаўскім р-нах. У партызанах з крас. 1942: камандзір атрада, у кастр. 1942— сак. 1944 *партызанскай брыгады імя М. А. Шчорса.* У 1944—65 на сав. рабоце.

**ДЗЕ́РБАН** Уладзімір Міхайлавіч (н. 12.8.1910, в. Локаць Бярэзінскага р-на), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Палескай вобл. Чл. КПСС з 1939. З 1934 у органах НКУС. У партызанах з ліп. 1941: камандзір, камісар атрада, у вер. 1943— чэрв. 1944 *партызанскай брыгады 50-й Жыткавіцкай*, адначасова чл. Жыткавіцкага падп. РК КП(б)Б. З 1944 сакратар Івацэвіцкага РК КП(б)Б, у 1948—73 у органах юстыцыі.

**ДЗЕРНУШКО́Ў** Феафан Ігнатавіч (11.10.1914, в. Краснае Сяло Сенненскага р-на — 15.9.1984), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1941. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1948), ВПШ пры ЦК КПСС (1961). З 1933 на сав. і камсам. рабоце. У партызанах з мая 1942: нам. камісара брыгады, сакратар Бягомльскага падп. РК ЛКСМБ, у снеж. 1943— чэрв. 1944 камісар *партызанскай брыгады «Жалязняк»*, адначасова чл., сакратар Бягомльскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—60 на парт. рабоце.

**ДЗЕСЮКЕ́ВІЧ** Сцяпан Канстанцінавіч (14.1.1913, в. Магільна Уздзенскага р-на — 8.2.1979), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1932. Скончыў ВПШ пры ЦК ВКП(б) (1949). У партызанах з кастр. 1942: камандзір аддзялення, палітрук роты, з крас. 1943 упаўнаважаны міжрайкома КП(б)Б Слуцкай зоны па Ляхавіцкім р-не, у вер. 1943— ліп. 1944 сакратар Ляхавіцкага падп. РК КП(б)Б, адначасова ў студз.—ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады 19-й імя В. М. Молатава.* З 1944 на парт. і сав. рабоце. Канд. у чл. ЦК КПБ у 1954—59. Яго імем названа вуліца ў Ляхавічах.

**ДЗЕСЯ́ТАЯ А́РМІЯ** 1-га фарміравання. Сфарміравана ў Бел. асобай ваен. акрузе ў 1939. У пачатку Айч. вайны на Зах. фронце.

У яе склад уваходзілі 1-ы і 5-ы стралк., 6-ы і 13-ы механіз. і 6-ы кав. карпусы, 155-я стралк. дывізія, 66-ы ўмацаваны раён, арт. і інш. часці.

Вяла абарончыя баі на Беластоцкім напрамку. 6-ы механіз. і частка сіл 6-га кав. карпусоў удзельнічалі ў нанясенні контрудараў у раёне Гродна (гл. ў арт. *Гродна*). У канцы чэрв. ням. 3-я і 2-я танк. групы прарвалі абарону Зах. фронту на яго флангах і злучыліся на З ад Мінска, акружыўшы войскі 10-й арміі і інш. злучэнняў фронту. Сав. войскі вялі баі ў акружэнні да 8 ліп., і, не маючы гаручага і боепрыпасаў, невял. групамі і атрадамі выйшлі з акружэння да асн. сіл фронту. Рэшткі арміі сканцэнтраваліся на У ад Гомеля. Упраўленне арміі расфарміравана, яе войскі перададзены на ўкамплектаванне інш. злучэнняў і часцей.

Камандуючы: ген.-маёр К. Дз. Голубеў (чэрв.— ліп. 1941).

3-га фарміравання. Сфарміравана ў ліст. 1941 у Прыволжскай ваен. акрузе.

У яе склад уваходзілі 322-я, 323, 324, 325, 326, 328, 330-я стралк. дывізіі, 57-я і 75-я кав. дывізіі, арт., інж. і інш. часці.

З снеж. 1941 у складзе Зах. фронту, удзельнічала ў контрнаступленні пад Масквой, у Смаленскай аперацыі 1943. Да пачатку кастр. 1943 выйшла на тэр. Беларусі ў раён Чавус. У складзе Бел. і 1-га Бел. франтоў займала абарону на р. Проня (да вясны 1944). У крас. 1944 на базе ўпраўлення арміі створана ўпраўленне 2-га Бел. фронту. Войскі і паласа абароны арміі перададзены ў склад 49-й арміі.

Камандуючыя: ген.-лейт. П. І. Голікаў (кастр. 1941—люты 1942), ген.-маёр, з 5.6.1942 ген.-лейт. В. С. Папоў (люты 1942— крас. 1944). *М. І. Камінскі.*

**ДЗІ́ВІН**, вёска, цэнтр Дзівінскага сельсавета ў Кобрынскім р-не. За 33 км на ПдУ ад Кобрына, за 36 км ад чыг. ст. Кобрын на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Кобрын — Ратна (УССР). У 1940—59 цэнтр Дзівінскага р-на. Акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі 24.6.1941. За час акупацыі знішчылі ў Д. і раёне 2819 чал. На тэр. раёна дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б (4.12.1943—30.3.1944) і ЛКСМБ (5.6.1943—21.7.1944), партыз. брыгады 150-я імя Ф. М. Языковіча, «За Радзіму» імя А. К. Флегантава, імя Сталіна, партыз. атрады імя Варашылава, 2

імя Катоўскага, імя Шчорса (гл. адпаведныя артыкулы). Вызвалены 21.7.1944 часцямі 212-й стралк. дывізіі (палк. У. Г. Кучынёў) 9-га гвардз. стралк. корпуса 61-й арміі 1-га Бел. фронту ў перыяд правядзення *Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944*. У Д. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі. *М. І. Камінскі.*

**ДЗІКАН** Ігнат Максімавіч (май 1900, в. Раеўскія Мазырскага р-на — 13.2. 1948), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Гомельскай вобл. Ген.-маёр (1943). Чл. КПСС з 1926. У 1919—41 на сав. рабоце ў Гомельскай вобл. У чэрв. 1942 накіраваны ў тыл ворага, у кастр. прыбыў у Журавіцкі р-н, камандзір арганізацыйнай групы, з лют. 1943 камісар атрада, у сак.— вер. 1943 камісар *партызанскай брыгады 10-й Журавіцкай*, адначасова сакратар Журавіцкага падп. РК КП(б)Б. З кастр. 1943 нач. аператыўнай групы БШПР пры Бел., 1-м Бел. франтах. З 1944 нам. старшыні Бабруйскага аблвыканкома.

**ДЗІМІТРОЎ** Добрын (н. 29.6.1923, г. Слівен, Балгарыя), удзельнік партыз. руху на тэр. Беларусі, ген.-лейт. авіяцыі Балгарскай нар. арміі (БНА, 1969). Чл. БКП з 1945. Скончыў Ваен. акадэмію імя Ракоўскага (1950) БНА, Ваен. акадэмію Ген. штаба Сав. Арміі (1955). З сям'і балгарскіх рэвалюцыянераў, эмігрыраваўшых у 1925 у СССР. Жыў у Ленінградзе, г. Катоўску Тамбоўскай вобл. З студз. 1942 у разведвальна-дыверсійнай школе. З крас. 1942 камісар групы падрыўнікоў, якая праз *Віцебскія «вароты»* прыбыла для баявых дзеянняў у *партызанскую брыгаду 1-ю Беларускую*. З чэрв. 1942 па крас. 1943 група дзейнічала ў складзе партыз. брыгады «Смерць фашызму» (гл. *Партызанская брыгада імя В. І. Чапаева*). Удзельнічаў у правядзенні многіх баявых аперацый і дыверсій. Усяго на рахунку групы 14 узарваных эшалонаў з жывой сілай, тэхнікай і ўзбраеннем ворага. З 1959 каманд. ППА і ВПС БНА. З 1963 прадстаўнік Ген. штаба БНА, з 1969 нам. начальніка Штаба Аб'яднаных узброеных сіл дзяржаў — удзельніц Варшаўскага дагавора. З 1972 нам. начальніка Ген. штаба БНА і сакратар Дзярж. к-та абароны НРБ. З 1977 нам. начальніка грамадзянскай абароны НРБ. Ганаровы грамадзянін г. Віцебска.



Д. Дзімітроў. Б. М. Дзмітрыеў. А. Ф. Дзюбко. І. І. Дзякаў.

**ДЗІСНА́**, горад у Міёрскім р-не, пры ўпадзенні р. Дзісна ў Зах. Дзвіну. За 45 км на У ад Міёр, за 12 км ад чыг. ст. Боркавічы на лініі Полацк — Даўгаўпілс, аўтадарогамі звязана з Полацкам, Глыбокім і Міёрамі. У 1940—59 цэнтр Дзісенскага р-на, 6073 жыхары у 1939. Акупіравана ням.-фаш. захопнікамі 5.7.1941. У Дз. і раёне фашысты за час акупацыі знішчылі 4584 чал., у т. л. ў горадзе, дзе быў створаны лагер смерці, 14.6.1942 расстралялі 3 800 чал. На тэр. раёна дзейнічалі Дзісенскія райкомы КП(б)Б (14.11.1943—3.7.1944) і ЛКСМБ (15.11.1943—3.7.1944), партыз. брыгады імя Леніна, імя Жукава, 1-я імя Суворава, «Кастрычнік», 4-я Бел. (гл. адпаведныя артыкулы); выдаваліся падп. газеты *«Кліч партызана»*, *«Народный мститель»*. Вызвалена 4.7.1944 воінамі 159-й танк. брыгады (палк. І. А. Фёдараў) 1-га танк. корпуса і 154-й стралк. дывізіі (палк. Л. Ц. Сачылаў) 103-га стралк. корпуса 6-й гвардз. арміі 1-га Прыбалт. фронту ў ходзе *Полацкай аперацыі 1944*. Баі за горад працягваліся 4 сутак (30.6—4.7.1944). У Дз. брацкая магіла 276 сав. воінаў і партызан, 3 магілы ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі; помнік Вызвалення. *М. І. Камінскі.*

**ДЗМІ́ТРЫЕЎ** Барыс Міхайлавіч (11.6.1924, Масква —23.2.1944), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. ВЛКСМ. З 1942 у партызанах, са студз. 1943 у партызанскім атрадзе 211-м імя К. К. Ракасоўскага, які дзейнічаў у Асіповіцкім р-не Магілёўскай вобл. Падрыхтаваў 14 партызан-падрыўнікоў. Удзельнічаў у падрыве 18 варожых эшалонаў. Дыверсійныя групы на чале з Дз. узарвалі 1400 чыгуначных рэек, 43 масты, 22 аўтамашыны, 3 танкі праціўніка. Загінуў у баі. Пахаваны ў Асіповічах. Яго імем названы вуліцы ў Асіповічах і Лёзна.

**ДЗЬЯЧКО́Ў** Міхаіл Іванавіч (17.11.1905, Саратаў —12.6.1963), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1939. Скончыў Ін-т сав. будаўніцтва ў Саратаве (1936), Рэсп. парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1951). З 1936 на сав. рабоце, з 1939 у органах НКУС у Віцебскай і Баранавіцкай абл. У партызанах з ліп. 1941: у лют.— маі 1942 камандзір атрада; у маі 1942— сак. 1943— *партызанскай брыгады 2-й Беларускай імя П. К. Панамарэнкі*, арганізатарскай групы, у вер. 1943— чэрв. 1944 камандзір *партызанскай брыгады 2-й Беларускай імя П. К. Панамарэнкі* (2-га складу), адначасова чл. Мехаўскага, Талачынскага падп. райкомаў КП(б)Б. У 1944—52 на сав. рабоце.

**ДЗЮБКО́** Анатоль Фёдаравіч (н. 15.12.1923, в. Горваль Рэчыцкага р-на), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1944. Скончыў Адэскае арт. вучылішча (1942), Ваенна-арт. акадэмію (1954). З ліст. 1942 на Паўн.-Зах., 2-м Прыбалт. і Ленінградскім франтах. Камандзір батарэі лейтэнант Дз. вызначыўся ў баях за вызваленне Латвіі. 29.8.1944 у час варожай контратакі былі адрэзаны ад тылоў падраздзяленні пяхоты і назіральны пункт батарэі. Дз. прыняў камандаванне імі, арганізаваў абарону. Калі немцы наблізіліся да назіральнага пункта і акружылі яго, Дз. выклікаў на сябе агонь сав. артылерыі, што памагло адбіць контратаку і ўтрымаць занятыя пазіцыі. Да 1976 у Сав. Арміі, палкоўнік.

**ДЗЯДЗЮ́ЛЯ** Іван Прохаравіч (н. 18.9.1918, в. Асавец Любанскага р-на), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1943. Скончыў Магілёўскі пед. ін-т (1939), Вышэйшую дыпламатычную школу (1947). З чэрв. 1941 на фронце, палітрук роты. У партызанах з чэрв. 1942: камісар атрада, у ліп. 1943— ліп. 1944 *партызанскай брыгады «Смерць фашызму»*, адначасова чл. Смалявіцкага падп. РК КП(б)Б. З 1944 у Смалявіцкім РК КП(б)Б, з 1947 на дыпламатычнай рабоце.

Аўтар кн. (псеўд. І. П. Прохараў) «Германскае пытанне і задачы забеспячэння еўрапейскай бяспекі» (1954), «Лясная гвардыя» (1968), «Партызанскі фронт» (1975).

**ДЗЯ́КАЎ** Іосіф Іванавіч (4.4.1903, Гомель —11.1.1984), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1931. Удзельнік грамадз. вайны. З 1942 на Зах., Цэнтр., 3-м Бел. і 1-м Укр. франтах. Вызначыўся пры вызваленні Беларусі. У чэрв. 1944 у час

бою ў Дубровенскім р-не парторг батальёна ст. лейтэнант Дз. падняў воінаў у атаку і ў рукапашнай сутычцы знішчыў 15 гітлераўцаў; 15.7.1944 у баі за Гродна замяніў параненага камандзіра роты і павёў байцоў на прарыў абароны праціўніка. Адзін з першых уварваўся ў горад, знішчыў каля 80 гітлераўцаў. Пасля вайны на парт. і сав. рабоце ў Гомельскай вобл.

**ДЗЯМІ́ДАЎ** Васіль Аляксандравіч (н. 12.4.1921, Віцебск), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1946. Скончыў Віцебскі аэраклуб (1940), ваен. авіяц. школу пілотаў (1942), Ваенна-паветр. акадэмію (1955). З 1943 на Зах. і 3-м Бел. франтах. Камандзір звяна асобнага разведвальнага авіяпалка ст. лейтэнант Дз. зрабіў 226 баявых вылетаў. 2.11.1944 у час палёту над Усх. Прусіяй варожым снарадам быў прабіты бензабак яго самалёта. Паранены Дз. сфатаграфаваў палосу абароны праціўніка і пасадзіў самалёт на сваёй тэрыторыі. Да 1961 у Сав. Арміі, падпалкоўнік. Жыве ў Віцебску.

**ДЗЯМША́**, вёска на тэр. Гродзенскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 4,5 км на ПнУ ад в. Бандары Скідзельскага сельсавета. 18.7.1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 36 жыхароў, вёску (36 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася.

**ДЗЯРЖА́ЎНЫ МУЗЕ́Й БЕЛАРУ́СКАЙ ССР.** Адкрыты 2.11.1967 у Мінску. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, мае 300 экспанатаў асн. фонду, пл. 48,5 м². Экспануюцца матэрыялы пра абарончыя баі на тэр. Беларусі ў 1941, мерапрыемствы партыі і ўрада па мабілізацыі сіл на адпор ворагу, удзел воінаў-беларусаў у баявых дзеяннях, у абароне Масквы, Ленінграда, Сталінграда і інш. (фатаграфіі, дакументы, узнагароды, асабістыя рэчы). Матэрыялы пра ўзнікненне і разгортванне падполля і партыз. руху на тэр. рэспубліцы: загад нач. БШПР аб зрыве перавозак праціўніка па чыгунках, партыз. зброя, данясенні камандзіраў атрадаў, лістоўкі, падп. газеты «Барацьба», «Бальшавік», «Бальшавіцкая трыбуна», «Голас партызана», «Голас селяніна», «За Радзіму», «За Савецкую Радзіму», «Знамя свободы», «Народный мститель», «Сцяг Леніна», «Сцяг свабоды», «Чырвоная зара», «Чырвоная звязда», сатырычнае выданне «Раздавім фашысцкую гадзіну», друкарская партатыўная машынка Клецкага падп. РК КП(б)Б, клішэ, зробленыя ў друкарні Лепельскай партыз. брыгады імя Сталіна, рукапісны часопіс партыз. атрада «Полымя», фатаграфіі, дакументы, узнагароды, зброя партызан і падпольшчыкаў, у т. л. сакратара ЦК КП(б)Б І. І. *Рыжыкава*, сакратара Мінскага падп. абкома КП(б)Б І. Дз. *Варвашэні*, упаўнаважанага БШПР па Барысаўска-Бягомльскай партыз. зоне А. Ф. Бардадына, камандзіра Пінскага партыз. злучэння Героя Сав. Саюза А. Я. *Кляшчова* і інш., дакументы, фатаграфіі, прылады катаванняў, адзенне палонных у фаш. лагерах смерці расказваюць аб злачынствах ням.-фаш. захопнікаў на акупіраванай тэрыторыі. Экспануюцца матэрыялы аб працоўным подзвігу бел. народа ў сав. тыле, вызваленні Беларусі ў выніку *Беларускай аперацыі 1944*, у т. л. дакументы, асабістыя рэчы Маршала Сав. Саюза Г. К. *Жукава*, ген. арміі А. І. *Антонава* і інш. Завяршаецца экспазіцыя матэрыяламі пра Берлінскую аперацыю 1945 і капітуляцыю фаш. Германіі.

*І. М. Пахоменка.*

**ДЗЯРЖЫ́НСК**, горад, цэнтр Дзяржынскага р-на. За 38 км на ПдЗ ад Мінска, на чыгунцы (ст. Койданава) і аўтадарозе Мінск — Баранавічы. 8,7 тыс. жыхароў у 1939. У пач. вайны каля Дз. праходзіў рубеж *Мінска абароны 1941*. Тут быў створаны вузел супраціўлення з падраздзяленняў 444-га стралк. палка (палк. І. І. Петухоў), 575-га арт. палка 108-й стралк. дывізіі (ген.-маёр А. І. Маўрычаў) і размешчаных у раёне Дз. кулямётных і арт. дзотаў (уваходзілі ў сістэму Мінскага УР), што кантралявалі дарогі Рубяжэвічы — Дзяржынск і Негарэлае — Мінск, па якіх ням.-фаш. войскі рваліся да Мінска. 26.6.1941 сав. воіны адбілі некалькі атак праціўніка (у т. л. танкавых), які імкнуўся прарвацца да Дз. 27.6.1941 на ПдЗ ад Дз. воіны 444-га стралк. палка і арт. батарэя 575-га арт. палка адбілі 3 атакі 30 варожых танкаў і батальёна аўтаматчыкаў, знішчылі каля 17 танкаў. 28.6.1941 акупіраваны ням.-фаш захопнікамі, якія загубілі ў Дз. і раёне 17 606 чал. У горадзе і раёне дзейнічалі *Дзяржынскае партыйна-камсамольскае падполле*, падп. РК КП(б)Б (кастр. 1942—4.7.1944) і ЛКСМБ (кастр. 1942—4.7.1944), партыз. брыгады імя Варашылава, 300-я імя Варашылава, 200-я імя Ракасоўскага, М. М. Нікіціна, 18-я імя Фрунзе, імя Панамарэнкі, імя Сталіна, імя Чкалава, імя Шчорса, партыз. атрады 106-ы, «Баявы» імя Дунаева, «Мсцівец», імя Калініна, «Слаўны», партыз. спец. групы «Багатыры», «Знішчальнік» (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«Ленінская праўда»*. Вызвалены 7.7.1944 воінамі 290-й стралк. дывізіі (ген.-маёр І. Г. Гаспаран) 81-га стралк. корпуса 49-й арміі 2-га Бел. фронту ў ходзе *Беластоцкай аперацыі 1944*. У Дз. брацкія магілы сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі; помнік у гонар вызвалення горада; мемар. дошка падпольшчыкам.

*В. В. Гетаў.*



В. А. Дзямідаў.



Экспазіцыя, прысвечаная Вялікай Айчыннай вайне, у Дзяржаўным музеі Беларускай ССР.

**ДЗЯРЖЫ́НСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ**, Дзяржынскі антыфашысцкі камітэт «Смерць фашызму». Дзейнічала са жн. 1941 да ліп. 1944 у Дзяржынску і Дзяржынскім р-не пад кіраўніцтвам *Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б* і Дзяржынскага падп. РК КП(б)Б у цесным кантакце з *Мінскім партыйным падполлем.*

Яднала 120 чал., палавіна з іх — камуністы і камсамольцы. Першая падп. група створана ў арцелі жалезных вырабаў «Чырвоны штампоўшчык» па ініцыятыве камуністаў І. А. Жукаўца і Генадзя В. *Будая*, камсамольца П. М. Хмялеўскага. У групу ўвайшлі: Ю. А. Алтунін, Георгій В. *Будай*, А. К. і П. К. Драблёнавы, П. А. Кавалёў, Н .А. Каробкін, Я. П. Караткоў, Н. Ф. Кацяшова, М. М. Наско, І. С. Рымковіч, М. І. Сарбайцаў, У. М. Чупецкі. Узніклі групы ў вёсках: Вялікія Навасёлкі (кіраўнік М. А. Лімантаў), в. Кукшавічы і Станькава (У. М. Вашкевіч; гл. *Кукшавіцка-Станькаўская партыйна-камсамольская група*), Баравое і Касілавічы (А. Г. *Мурашоў*), Нявелічы і Шацілы (А. І. Варыводскі) і інш. Для кіраўніцтва падп. арг-цыяй прадстаўнікі груп у канцы жн. 1941 стварылі Дзяржынскі антыфашысцкі камітэт «Смерць фашызму» ў складзе Генадзя В. Будая (кіраўнік), Жукаўца, Хмялеўскага, С. Ф. Юховіча (з вясны 1942). Са стварэннем к-та дзейнасць падполля набыла мэтанакіраваны і арганізаваны характар.

Падпольшчыкі мелі ў Дзяржынску 6 канспіратыўных кватэр, 3 радыёпрыёмнікі, ва ўстановах акупантаў працавала каля 20 патрыётаў. Георгій Будай, М. І. Горленка, Чупецкі, якія працавалі ў раённай управе, збіралі звесткі аб варожым гарнізоне, карных аперацыях супраць насельніцтва і партызан, забяспечвалі падпольшчыкаў, партыз. сувязных, б. ваеннаслужачых пашпартамі, пропускамі (аўсвайсамі), бланкамі розных дакументаў. Вялі антыфаш. прапаганду сярод насельніцтва, распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі, газ. *«Звязда»*, збіралі разведданыя для партызан, накіроўвалі да іх людзей, перадавалі зброю, медыкаменты, прадукты. У крас. 1942 на базе падп. груп вёсак Касілавічы і Баравое створаны першы ў раёне партыз. атрад. Камітэт быў звязаны з партыз. атрадамі імя Будзённага, імя Фрунзе, імя Чкалава, «Баявы», са спецгрупамі, закінутымі з сав. тылу. Заданні к-та і партыз. атрадаў па зборы разведданых выконвалі А. Е. Бязмен, І. І. Біжака, І. І. Грыб, А. П. і У. М. Вашкевічы, В. П. Ждановіч, А. Б. Рымар, А. М. Шалай, П. Ф. Шаціла і інш. На працягу вясны і лета 1942 падпольшчыкі па няпоўных звестках пераправілі да партызан 45-міліметровую гармату, 3 мінамёты, 12 кулямётаў, 3 аўтаматы, 160 вінтовак, болей як 20 скрынак з патронамі, значную колькасць снарадаў, гранат, узрыўчаткі. Падпольшчыкі сарвалі намер акупантаў стварыць атрады «самаахоўы», выратавалі больш за 400 чал. ад вывазу ў Германію, палілі і ўзрывалі масты і эшалоны, знішчалі жывую сілу і баявую тэхніку ворага. Восенню 1941 спалілі мост цераз р. Уса, 16.4.1942 разам з партызанамі зрабілі напад на дзяржынскую турму, летам разгромілі паліцэйскі ўчастак у в. Путчына, напалі на гарнізон у Рубяжэвічах, рабілі засады на дарогах. Рабочыя Койданаўскай і Путчынскай пракатных станцый зрывалі рамонт с.-г. тэхнікі. Восенню 1942 падпольшчыкі на чале з У. М. Вашкевічам у выніку падрыхтаванай аперацыі напалі на дзяржынскі банк і вынеслі адтуль вял. суму грошай, якія перадалі партызанам. Пасля арыштаў у кастр. 1942 к-т перастаў дзейнічаць, большасць падпольшчыкаў пайшла да партызан. Тыя, што засталіся, працягвалі барацьбу пад кіраўніцтвам Дзяржынскага падп. РК КП(б)Б да ліп. 1944.

У барацьбе з ням-фаш. акупантамі загінулі: К. М. Бабок, С. В. Быстрымовіч, Э. П. Быстрымовіч, С. Г. Варатніцкая, Я. А. Вашкевіч, І. М. Гаркун, І. А. Герасімовіч, У. І. Герасімовіч, І. І. Грыб, С. А. Жывіцкі, І. А. Жукавец, А. У. Івашын, П. А. Кавалёў, Г. А. Казей, А. І. Карніцкі, Н. Ф. Кацяшава, З. І. Красоўская, Н. А. Лішкевіч, С. А. Макась, А. І. Папоў, С. А. Рыжак, М. Н. Хмялеўскі, Н. М. Чаранок, А. С. Шаўцова, У. І. Шчуплік, М. Я. Юран, А. І. Юховіч, С. Ф. Юховіч. У Дзяржынску ў гонар Дзяржынскага антыфаш. к-та ўстаноўлена мемар. дошка, у в. Навоз-Рудзіца — мемар. дошка С. Ф. Юховічу.

*Л. В. Аржаева, А. І. Валахановіч.*

**ДЗЯРЖЫ́НСКІ** Казімір Эдмундавіч (19.4.1875, маёнтак Ёды Віленскага павета — 24.7.1943), удзельнік партыз. руху на тэр. Баранавіцкай вобл. Брат Ф. Э. Дзяржынскага. Скончыў політэхн. ін-т у Германіі, працаваў інжынерам у Польшчы, з 1935 у маёнтку Дзяржынава (Стаўбцоўскі р-н). Пасля ўз'яднання Зах. Беларусі з БССР (1939) удзельнічаў у стварэнні мемар. музея Ф. Э. Дзяржынскага. З вясны 1943 Дз. працаваў у ням. гандлёвым таварыстве ў Івянцы, яго жонка Люцыя ўладкавалася перакладчыцай у Івянецкай камендатуры, наладзілі сувязь з партызанамі Баранавіцкага партыз. злучэння, перадавалі ім каштоўныя звесткі разведкі, што намагло, у прыватнасці, разбіць варожы гарнізон у Івянцы. Гітлераўцы арыштавалі Казіміра і Люцыю і расстралялі.

**ДЗЯРЖЫ́НСКІ АНТЫФАШЫ́СЦКІ КАМІТЭ́Т «СМЕРЦЬ ФАШЫ́ЗМУ»**, гл. *Дзяржынскае партыйна-камсамольскае падполле.*

**ДЗЯ́ТЛАВА**, гар. пасёлак, цэнтр Дзятлаўскага р-на. За 165 км на ПдУ ад Гродна, 13 км ад чыг. ст. Наваельня на лініі Баранавічы — Ліда, аўтадарогамі звязана з Слонімам, Лідай, Навагрудкам. 30.6.1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў Дз. і раёне 4716 чал. У гар. пасёлку і раёне дзейнічалі Дзятлаўскія падп. райкомы КП(б)Б (20.8.1943 — 15.7.1944) і ЛКСМБ (1.6.1943—15.7.1944), *Дзятлаўскае камсамольска-маладзёжнае падполле*, партыз. брыгады імя Варашылава, Ленінская, «Перамога», асобны партыз. атрад «Баявы» імя Дунаева, партыз. спец. група «Дружба» (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«Знамя свободы»*. Вызвалена 9.7.1944 воінамі 120-й гвардз. (ген. маёр Я. Я. *Фогель*) і 283-й (палк. В. А. Канавалаў) стралк. дывізій 3-й арміі 2-га Бел. фронту ў ходзе *Беластоцкай аперацыі 1944*. У Дз. брацкія могілкі сав. воінаў і партызан, брацкія магілы падпольшчыкаў, сав. воінаў, магілы ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі; помнікі землякам і селяніну-патрыёту І. Ю. Філідовічу, які паўтарыў подзвіг Івана Сусаніна; мемарыял дзецям міжнар. піянерскага лагера і дзятлаўскага прытулку. Працуе *Дзятлаўскі музей народнай славы.*

*В. В. Гетаў.*

**ДЗЯ́ТЛАЎСКАЕ КАМСАМО́ЛЬСКА-МАЛАДЗЁЖНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з вер. 1941 да ліп. 1944 у Дзятлаўскім і Казлоўшчынскім р-нах пад кіраўніцтвам Дзятлаўскага і Казлоўшчынскага падп. райкомаў ЛКСМБ (з чэрв. 1943). Аб'ядноўвала больш за 30 чал., 2 падп. групы. Група ў в. Явар Казлоўшчынскага р-на налічвала 20 падпольшчыкаў, 5 з іх камсамольцы. Кіраўнікі: члены ВЛКСМ С. І. Белы (да крас. 1943), Б. І. Белы (да снеж. 1943). У групу ўваходзілі чыгуначнікі ст. Слонім І. В. Валанцэвіч, У. І. Гульнік, К. М. Нагавонскі, б. вучні мясцовай школы У. І. Белы, Б. І. Гульнік, М. А. Гульнік, А. А. Рагіневіч, А. Б. Шэйбак і інш.; ім актыўна памагалі камандзіры Чырв. Арміі камуніст П. Е. Сцяпанаў і камсамолец Ю. І. Аленін, якія выйшлі з акружэння. Падпольная група ў в. Зачэпічы Дзятлаўскага р-на створана ў ліст. 1941. Кіраўнікі: камсамольцы М. П. Сніціч (1.1—15.7.1944 сакратар Дзятлаўскага падп. РК ЛКСМБ), з вер. 1942 Н. П. Сніціч. З 11 членаў групы 7 камсамольцаў. У яе складзе б. работнік нарсуда г. Ліда Ф. А. Калодка, калгаснікі сельгасарцелі імя Калініна А. П. Валюк, У. М. Грос, С. Л. Ланцэвіч, М. Е. Місарэвіч, В. П. Скабейка, А. І. Сніціч, В. І. Тананушка. Падполле падтрымлівала сувязь з камандаваннем партыз. атрадаў «Балтыец», «Барацьба», «Ленінскі», «Перамога» Ленінскай і інш. партыз. брыгад.

Падпольшчыкі вялі агітацыю сярод насельніцтва, распаўсюджвалі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, збіралі і перадавалі партызанам зброю, боепрыпасы, медыкаменты, прадукты, былі праваднікамі, зрывалі адпраўку моладзі на катаргу ў Германію і мабілізацыю яе на работы для акупантаў. Падпольшчыкі в. Явар перадалі партызанам 5 кулямётаў, 21 вінтоўку, 6 пісталетаў, больш за сотню снарадаў, мін і інш. боепрыпасаў, звесткі пра размяшчэнне агнявых кропак, драцяных загарод, колькасць і часы змены вартавых у варожым гарнізоне г. п. Казлоўшчына. Па іх звестках восенню 1942 партызаны разграмілі гэты гарнізон. У ліст. 1942 Нагавонскі, С. П. Шэйбак, С. І. Белы з групай партызан атрада «Барацьба» падпалілі склады на ст. Наваельня. Падпольная

група в. Зачэпічы здабывала зброю для партызан, памагала праводзіць дыверсіі на чыгунцы, вясной 1942 пашкодзіла тэлефонную сувязь паміж в. Несіловічы і Гезгалы. У канцы 1943 большасць надпольшчыкаў пайшла да партызан, тыя, што засталіся, працягвалі барацьбу да вызвалення. У барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі загінулі А. М. Буйко і І. В. Валанцэвіч. *М. Ф. Шумейка.*

**ДЗЯ́ТЛАЎСКІ МУЗЕ́Й НАРО́ДНАЙ СЛА́ВЫ.** Адкрыты 5.5.1968. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, размешчана ў 3 залах, 1200 экспанатаў асн. фонду, пл. 120 м². На стэндах фатаграфіі, дакументы, асабістыя рэчы ўдзельнікаў абарончых баёў на р. Шчара, 14 сав. воінаў, якія загінулі пры абароне г. п. Дзятлава, землякоў-абаронцаў Масквы, Ленінграда, Сталінграда і інш., у т. л. ген.-лейт. С. Г. *Караля.* Матэрыялы пра ўзнікненне і разгортванне падполля і партыз. руху ў раёне: фатаграфіі членаў падп. антыфаш. к-та, лістоўкі, пішучая машынка, падп. газ. «Вольная праца», «За нашу победу», «За Родину», «Знамя свободы», «Красное знамя», «Молодой мститель», «Уперад», «Чырвоная звязда» і інш., дыярама «Партызанская зямлянка», матэрыялы пра партыз. шпіталь у Ліпічанскай пушчы, карта-схема дзеянняў партыз. брыгады Ленінскай, фатаграфіі, зброя, узнагароды, прадметы побыту, асабістыя рэчы партызан, у т. л. Героя ў Сав. Саюза Б. А. *Булата* і Ф. М. *Сінічкіна,* сакратара падп. РК ЛКСМБ І. М. Глазкова і інш. Пра злачынствы ням.-фаш. захопнікаў у раёне расказваюць лістоўкі, дакументы, фатаграфіі ахвяр фашызму, фатаграфіі месцаў масавага расстрэлу сав. грамадзян і інш. Экспануюцца матэрыялы пра вызваленне гар. пасёлка і раёна воінамі 120-й гвардз. і 283-й стралк. дывізій, у т. л. карта-схема баявога шляху 120-й дывізіі, матэрыялы пра 46-ы Таманскі жаночы авіяполк, узнагароды, асабістыя рэчы военачальнікаў і воінаў-вызваліцеляў. Макет помніка (скульпт. А. Садзятыцкі) і карціна «Подзвіг І. Ю. Філіповіча» (маст. П. Свентахоўскі), прысвечаныя селяніну — патрыёту Філіповічу, які паўтарыў подзвіг І. Сусаніна. *Ф. Ф. Красюк.*

**ДНЯПРО́ЎСКА-БУ́ГСКАГА КАНА́ЛА АБАРО́НА 1944,** абарона фарміраваннямі Брэсцкага і Пінскага партыз. злучэнняў (гл. адпаведныя арт.) Дняпроўска-Бугскага канала ў лют. — сак. 1944. У выніку паспяховага наступлення ў студз. 1944 войск Бел. і правага флангу 1-га Украінскага франтоў на ковельска-брэсцкім напрамку лінія фронту к лютаму 1944 наблізілася да паўд. раёнаў Брэсцкай вобл., дзе да гэтага часу знаходзілася вял. групоўка партыз. сіл, якая ўтрымлівала ў сваіх руках тэр. паміж р. Прыпяць і Дняпроўска-Бугскім каналам. Гітлераўскае камандаванне групы ням. армій «Цэнтр» апасалася злучэння перадавых часцей Чырв. Арміі з партызанамі і выхаду іх да Дняпроўска-Бугскага канала, чыгункі і шашы Лунінец — Брэст і вырашыла ачысціць гэты раён ад партызан, аднавіць паралізаванае партызанамі суднаходства па каналу, прадухіліць новыя дыверсіі на камунікацыях і арганізаваць рубяжы абароны на р. Прыпяць і Стаход. З гэтай мэтай праціўнік пачаў сцягваць у раён Брэст — Кобрын — Пінск вял. армейскія сілы. Да пачатку лютага гітлераўцы занялі ўсе насел. пункты, якія прылягалі да канала з Пн, у т. л. вёскі Селішча, Ляхавічы, Кублік, Белін, Адамава Драгічынскага р-на, Журавок і інш. Іванаўскага р-на і сталі рыхтавацца да наступлення на Дзівін, каб захапіць аэрадром у в. Сварынь Дзівінскага р-на і знішчыць партыз. сілы.

Паводле распараджэння БШПР у лютым 1944 у паўд. раёнах Брэсцкай вобл. для барацьбы з карнікамі была арганізавана часовая групоўка партыз. сіл Паўднёвай зоны, якая налічвала каля 6 тыс. партызан. У яе склад увайшлі брыгады: імя Сталіна, «За Радзіму» імя А. К Флегантава, 150-я імя Ф. М. Языковіча, асобныя партыз. атрады імя Шчорса (камандзір В. Ф. Гужэўскі), імя Катоўскага; у яе аператыўнае падпарадкаванне была таксама перададзена брыгада імя Молатава (гл. адпаведныя арт.) Пінскага партыз. злучэння. Агульнае камандаванне партыз. сіламі ажыццяўляў упаўнаважаны штаба Брэсцкага партыз. злучэння маёр П. М. Кавальскі.

Правы фланг абароны (ад с. Любязь Валынскай вобл. да Белаазерскага канала) уздоўж паўд. берага Дняпроўска-Бугскага канала ўтрымлівала брыгада імя Молатава. Справа ад яе ўздоўж канала і р. Піна абарону трымала Пінская партыз. брыгада. Злева па канале ад в. Башня Іванаўскага р-на да в. Селішча Драгічынскага р-на абарону трымалі брыгады 150-я імя Языковіча, «За Радзіму» імя Флегантава, асобныя атрады імя Шчорса і імя Катоўскага. Падыходы да партыз. абароны з боку в. Дзівін утрымлівала брыгада імя Сталіна. Лінія партыз. абароны на адказных участках 50-кіламетровага фронту была абсталявана дзотамі, бліндажамі, хадамі зносін. 21.2.1944 гітлераўцы пры перавазе ў жывой сіле і тэхніцы, з боем адцяснілі дробныя загараджальныя атрады партызан, выйшлі на рубеж Дняпроўска-Бугскага канала ў раёне вёсак Зарэчка і Белін Драгічынскага р-на і павялі наступленне на абарончыя рубяжы брыгады імя Молатава. Партызаны ўзарвалі пераправы і сустрэлі гітлераўцаў агнём з дзотаў, якія загадзя былі збудаваны на паўд. беразе Дняпроўска-Бугскага канала на ўсход ад яго стыку з Белаазерскім каналам. Да зыходу дня пад прыкрыццём артылерыйска-мінамётнага агню праціўнік фарсіраваў канал у р-не вёсак Зарэчка, Ляхавічы, Кублік Драгічынскага р-на і рухаўся ў напрамку в. Хідры Драгічынскага р-на, каб расчляніць абарону брыгады імя Молатава на 3 часткі і адрэзаць яе ад іншых сіл. На працягу трох сутак партызаны брыгады імя Молатава адбівалі атакі гітлераўцаў. Праціўнік вымушаны быў адступіць назад і пачаць ствараць абарончыя збудаванні на паўн. беразе канала. 23 лютага пасля моцнага арт. налёту гітлераўцы перайшлі ў наступленне, спрабавалі фарсіраваць канал і р. Піну на ўчастку абароны Пінскай партыз. брыгады. У выніку працяглых баёў у партызан канчаліся боепрыпасы. Пінская брыгада не вытрымала націску і вымушана была адступіць, тым самым агаліла правы фланг брыгады імя Молатава. Апошняя вымушана была здымаць свае атрады і перакідваць іх у раён в. Адрыжын Іванаўскага р-на. 26 лютага гітлераўцы занялі сёлы Дольск і Шлапань Валынскай вобл., в. Мах-



Экспазіцыя, прысвечаная Вялікай Айчыннай вайне, у Дзятлаўскім музеі народнай славы.

ро Іванаўскага р-на. Пінская партыз. брыгада адышла за р. Прыпяць, злучылася з часцямі Чырв. Арміі і заняла абарону ў раёне сёл Нобель і Бучын Ровенскай вобл. Праціўнік фарсіраваў р. Прыпяць і заняў с. Любязь, маючы намер злучыцца з гарнізонам г. Камень-Кашырскі Валынскай вобл. Левы фланг гітлераўцаў выходзіў у тыл партыз. брыгады імя Молатава і ствараў пагрозу акружэння. У сувязі са становішчам, якое стала больш складаным, паводле загаду маёра Кавальскага ў раён Дольск — Шлапань былі выведзены брыгады 150-я імя Языковіча і атрад імя Фрунзе брыгады імя Сталіна. У выніку прынятых мер праціўнік быў спынены на рубяжы вёсак Глінна, Адрыжын Іванаўскага р-на, Грэчы-

шча Валынскай вобл. Было прынята рашэнне ўтрымліваць пазіцыі да апошняй магчымасці, адначасова актывізаваць дзеянні лятучых атрадаў і груп разведкі па тылах ворага. Па ўсёй лініі абароны партызаны рабілі завалы, мінныя палі, ноччу пранікалі ў тыл праціўніка, мініравалі пад'язныя шляхі, участкі мясцовасці. На партыз. мінах падарвалася шмат варожых салдат і афіцэраў, павозак, аўтамашын, гармат. 13 сак. 160-я стралк. і 38-я гвардз. дывізіі 70-й арміі 2-га Бел. фронту перайшлі ў наступленне на 40-кіламетровым участку Любяшоў — Бароўна. Да 17 сак. яны прасунуліся на глыбіню да 60 км і выйшлі на рубеж канала Турскі, дзе былі затрыманы рэзервамі праціўніка, якія падаспелі.

17 сакавіка пачалося новае наступленне праціўніка па ўсёй лініі абароны. Жорсткія баі завязаліся ў в. Зарэчка. У трох месцах фашысты фарсіравалі канал і павялі наступленне на вёскі Хідры, Вялікі Лес Драгічынскага р-на і ўздоўж Белазерскага канала. Праціўнік заняў Ляхавіцкія і Хідроўскія хутары і ўклініўся ў перадавую лінію абароны партыз. атрада імя Шчорса. Контратакамі, ударамі з флангаў партызаны аднавілі становішча. 26—30 сакавіка гарачыя баі праходзілі па ўсёй лініі партыз. абароны. Партызаны атрымлівалі боепрыпасы ад часцей Чырв. Арміі, якія падышлі да рубяжоў р. Прыпяць. 26 сак. гітлераўцы аднавілі наступленне на ўчастку абароны брыгады імя Молатава, якая пад націскам пераважаючых сіл праціўніка адышла на другую лінію абароны. 28 сакавіка правы фланг брыгады заняў абарону на ўсходняй ускраіне в. Ветлы Валынскай вобл., дзе ўступіў ва ўзаемадзеянне з часцямі Чырв. Арміі. Да 29 сакавіка гітлераўцам удалося перагрупаваць свае сілы, пад прыкрыццём арт. і мінамётнага агню яны фарсіравалі канал і пачалі наступленне ў глыбіню партыз. абароны. Пад канец дня праціўнік выйшаў на лінію Мукошын — воз. Луке — Радастоў, прыціснуў партызан і часці Чырв. Арміі да р. Прыпяць. Да 31.3.1944 асн. сілы партызан злучыліся з часцямі Чырв. Арміі.

Больш за месяц партызаны вялі няроўны паядынак з вял. групоўкай праціўніка. Партызаны ўмела выкарыстоўвалі партыз. тактыку, спалучалі абарончыя баі з начнымі налётамі, дыверсіямі, выкарыстоўвалі дзеянні лятучых атрадаў і груп па тылах праціўніка, нанеслі вял. страты ворагу і аказалі адчувальную дапамогу Чырв. Арміі, якая вяла тут наступленне. У в. Зарэчка Драгічынскага р-на ў гонар подзвігу бел. партызан у 1966 пастаўлены помнік. *А. М. Літвін.*



Аўтар А.М.Літвін

**ДНЯПРО́ЎСКА-БУ́ГСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1943.** Праведзена *партызанскай брыгадай імя В. М. Молатава* Пінскай вобл. з мэтай вывесці са строю шлюзы, плаціны і вадаспускі Днепроўска-Бугскага канала і сарваць перавозкі праціўніка. Распрацавана БШПР у канцы 1942.

У лют.— сак. 1943 дыверсійныя групы атрадаў імя Лазо, імя Кутузава, імя Суворава вывелі са строю Оўзіцкі, Ляхавіцкі, Рагадашчанскі, у маі — шлюзы Перароб і Радастаўскі на Белазерскім канале. У пач. лета 1943 праціўнік спрабаваў аднавіць Дняпроўска-Бугскі канал і пусціць яго ў эксплуатацыю. Дзеля гэтай мэты прыбыла аднаўленчая каманда ў складзе батальёна, якую прыкрывалі 6 ваен. катэраў рачной флатыліі. Пачаліся рамонтныя работы. Даведаўшыся аб намерах праціўніка, камандаванне брыгады ў ноч на 19.6.1943 сіламі 3 атрадаў (каля 400 чал.) правяло аперацыю па вываду са строю Гарадзецкага, Ляхавіцкага, Оўзіцкага, Перарубскага, Селішчанскага, Старога і Новага Рагадашчанскага гідравузлоў. Каб адцягнуць увагу ворага, атрады імя Сталіна і імя У. Р. Нямытава завязалі бой у раёне в. Патаповічы, дзе знаходзіліся асн. сілы праціўніка і ваен. катэры. Астатнія сілы брыгады атакавалі пералічаныя вышэй аб'екты і знішчылі іх. У аперацыі праціўнік страціў 12 чал. забітымі і 36 параненымі, партызаны — 4 чал. параненымі. Узровень вады панізіўся да 30—60 см, 120 км канала на ўчастку Пінск — Кобрын сталі непрыгодныя для эксплуатацыі. 129 суднаў праціўніка, якія былі пакінуты з Дняпра, засталіся ў Пінскім порце і ў ліп. 1944 захоплены Дняпроўскай ваен. флатыліяй. *А. М. Літвін.*

**ДНЯПРО́ЎСКАЯ ВАЕ́ННАЯ ФЛАТЫЛІ́Я,** аператыўнае аб'яднанне баявых рачных караблёў у Вял. Айч. вайну. Сфарміравана 14.9.1943 на базе Волжскай ваен. флатыліі. Галоўная база — Чарнігаў, з ліст. 1943 Кіеў, з ліп. 1944 Пінск. Уваходзіла ў склад Бел. і 1-га Бел. франтоў. Мела каля 200 суднаў (1945). Дзейнічала на рэках Дняпро, Бярэзіна, Прыпяць, Зах. Буг, удзельнічала ў вызваленні Беларусі (Бабруйска, Петрыкава, Пінска і інш.), Польшчы, у баях на Одэры, Шпрэе, у бітве за Берлін. Узнагароджана ордэнамі Чырв. Сцяга (1944), Ушакова I ступені (1945), 2 брыгады і 1 дывізіён флатыліі ўзнаг. ордэнамі Чырв. Сцяга, 2 дывізіёны сталі гвардзейскімі, 20 маракам прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Злучэнням і часцям флатыліі, якія вызначыліся ў баях, нададзены ганаровыя найменні «Бабруйскіх», «Лунінецкіх», «Пінскіх», «Берлінскіх». Расфарміравана ў 1945. Камандуючы флатыліяй капітан 1-га рангу, з 25.9. 1944 контр-адмірал В. В. *Грыгор'еў.* У Пінску ў гонар маракоў Д. в. ф. ўзведзены мемар. комплекс, створаны музей. *М. І. Камінскі.*

**ДНЯПРО́ЎСКІЯ ВАЙСКО́ВЫЯ ЗЛУЧЭ́ННІ І ЧА́СЦІ,** часці і злучэнні Чырв. Арміі, якім за фарсіраванне ў 1943 р. Днепро ў раёне г. Рэчыца былі

нададзены ганаровыя найменні «Дняпроўскіх». 15.10.1943 у 6 гадз 30 мін раніцы штурмавыя батальёны 106-й, 193, 149, 69-й стралк. дывізій 65-й арміі (камандуючы ген.-лейт. П. І. *Батаў*) Цэнтральнага (з 20.10.1943 Беларускі) фронту пры падтрымцы артылерыі і штурмавой авіяцыі ў 6 пунктах пачалі фарсіраванне Дняпра. Праз паўгадзіны яны высадзіліся на правым беразе і штурмам авалодалі плацдармам. У выніку баёў за пашырэнне плацдарма і ўмацаванне пазіцый былі створаны спрыяльныя ўмовы для правядзення *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943*. У перыяд яе правядзення паводле загада ВГК ад 17.11.1943 ганаровае найменне атрымалі 5 часцей і злучэнняў 65-й арміі.

Часці і злучэнні, якім нададзены найменні «Дняпроўскіх»: 106-я (палк. М. М. Уласаў) і 193-я (палк. А. Р. Фралянкоў) стралк. дывізіі, 143-і (падпалк. І. Р. Алейнік) і 218-ы (падпалк. А. А. Навікаў) мінамётныя палкі, 61-ы асобны матарызаваны пантонна-маставы батальён (маёр А. П. Трусаў). За паспяховае фарсіраванне Дняпра і замацаванне на захопленым плацдарме 183 воінам 65-й арміі прысвоена званне Героя Сав. Саюза, шэраг злучэнняў і часцей узнаг. ордэнамі СССР. *М. І. Камінскі.*

**ДОБРААХВО́ТНІЦТВА.** Атрымала вял. размах з самага пач. вайны. Сотні тысяч сав. грамадзян добраахвотна ўступалі ў дзеючую армію і флот, *народнае апалчэнне, знішчальныя батальёны,* групы самаабароны. У краіне ствараліся добраахвотніцкія злучэнні, у т. л. *Кубанска-Баранавіцкая казацкая кавалерыйская дывізія, Кубанска-Слуцкая казацкая кавалерыйская дывізія* і інш. У авангардзе Д. ішлі камуністы і камсамольцы. Узбраенне і абмундзіраванне асабовага складу гэтых злучэнняў праводзілася за сродкі працоўных. Адна з яркіх форм Д.— падп. і партыз. барацьба на акупіраванай ворагам тэрыторыі. Толькі на Беларусі ў партыз. фарміраваннях вялі барацьбу з ням.-фаш. захопнікамі 374 тыс. патрыётаў-добраахвотнікаў, у партыз. рэзервах было каля 400 тыс. чал. Больш за 70 тыс. патрыётаў змагалася ў падполлі (гл. *Партыйнае падполле, Камсамольска-маладзёжнае падполле, Антыфашысцкія арганізацыі).* На патрэбы абароны працавалі добраахвотныя таварыствы і арг-цыі. Асаавіяхім Беларусі да кастр. 1944 падрыхтаваў каля 4 тыс. інструктараў і мінёраў, якія праверылі і размініравалі каля 35 тыс. км² тэрыторыі, абясшкодзілі і знялі больш за 490 тыс. мін, сабралі каля 430 тыс. авіябомб і арт. снарадаў. Арганізацыя Чырв. Крыжа БССР у 1944—1-й пал. 1945 падрыхтавала 1245 медсясцёр для шпіталяў і фронту. Працоўныя Беларусі толькі восенню 1944 добраахвотна ўнеслі ў *фонд абароны* 33 млн. руб. грашыма, 17 млн. руб. аблігацыямі дзярж. пазыкі. Справай усяго народа былі клопат аб параненых, сем'ях салдат, партызан і падпольшчыкаў, інвалідах вайны, а таксама донарства, збор падарункаў франтавікам і інш. У Д. праявіліся лепшыя якасці сав. чалавека: любоў да сацыяліст. Радзімы, мужнасць і адвага, непахісная воля да перамогі. *У. І. Лемяшонак.*

**ДО́БРУШ,** горад, цэнтр Добрушскага р-на, на р. Іпуць. За 28 км на У ад Гомеля, чыг. станцыя на лініі Гомель — Унеча, аўтамаб. дарогамі звязаны з Гомелем, Веткай, Церахоўкай, Навазыбкавам. 13,8 тыс. жыхароў у 1939. У пач. вайны ў горадзе створаны атрад нар. апалчэння, у якім было каля 500 чал. 22.8.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў Д. і раёне 321 чал. На тэр. раёна дзейнічалі Добрушскія падп. райкомы КП(б)Б (чэрв. 1943 — 27.9.1943) і ЛКСМБ (ліп. 1943 — 27.9.1943), *Добрушскае партыйна-камсамольскае падполле,* партыз. брыгады Добрушская імя Сталіна, «Бальшавік», атрад Добрушскі (гл. адпаведныя артыкулы). Вызвалены 10.10. 1943 часткай сіл 73-й стралк. дывізіі (ген.-маёр Дз. І. Смірноў) 42-га стралк. корпуса 48-й арміі Цэнтр. фронту ў ходзе аперацыі на гомельскім напрамку. У Д. брацкія магілы падпольшчыкаў і ахвяр фашызму, сав. воінаў і партызан, на якіх пастаўлены помнікі; помнік Вызвалення, работнікам папяровай ф-кі «Герой працы», якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны; мемар. дошкі Ф. Я. *Кухараву,* П. М. *Раманаву,* партызанам і падпольшчыкам. *Н. У. Капранава.*

**ДО́БРУШСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з жн. 1941 да кастр. 1943. Аб'ядноўвала 6 груп, больш за 70 падпольшчыкаў, сярод якіх 3 камуністы і 36 камсамольцаў. Кіраўнік падполля рабочы папяровай ф-кі «Герой працы» Н. С. Кулікоў, яго нам. рабочы гэтай жа ф-кі, чл. КПСС Дз. М. Гладышаў. Групы сфарміраваліся з рабочых г. Добруша (кіраўнік Кулікоў), з навучэнцаў сярэдняй школы і б. ваеннаслужачых (У. І. Агрызка), работнікаў Добрушскага лясніцтва (Г. А. Тычынскі і С. М. Веркін), з жыхароў г. Добруша (І. П. Бейзераў), з жыхароў в. Камень (Т. К. Панкоў). Падполле працавала ў цесным кантакце са спецгрупамі Чырв. Арміі, камандаваннем *партызанскай брыгады Добрушскай імя І. В. Сталіна,* з чэрв. 1943— пад кіраўніцтвам Добрушскіх падп. райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ.

Адразу пасля адступлення з Добруша Чырв. Арміі падпольшчыкі групы Кулікова пачалі знішчаць абсталяванне ф-кі, якое не паспелі вывезці ў сав. тыл, гаручае на сядзібе Добрушскай МТС, пашкодзілі падземны кабель. Збіралі зброю і боепрыпасы. Знойдзеныя на месцах баёў металічныя «вожыкі» патрыёты раскідвалі на дарогах пры падыходзе транспарту працiўніка. У дыверсіях удзельнічалі Бейзераў, А. І. Дудараў, А. Н. Кулікоў, Н. С. Кулікоў, Ф. Я. Кухараў. У жн. 1942 падпольшчыкі дапамаглі Чарнігаўскаму партыз. злучэнню паспяхова фарсіраваць р. Іпуць і выйсці ў Чачэрскія лясы, а ў лютым 1943 вярнуцца на Чарнігаўшчыну. У канцы вер. 1942 па звестках Н. С. Кулікова было паведамлена камандаванню аб'яднаных спецгруп Чырв. Арміі аб праходжанні праз ст. Добруш асабліва сакрэтнага эшалона праціўніка. У выніку выбуху каля чыг. ст. Закапыцце знішчана вял. колькасць фаш. ваеннаслужачых, у асн. афіцэраў-лётчыкаў. У маі 1943 на ўчастку чыгункі Гомель — Бранск пушчана пад адхон 3 эшалоны. Галоўным арганізатарам і выканаўцам гэтых дыверсій быў Кухараў. У ліп. 1943 з дапамогай падпольшчыкаў горада партызаны Добрушскай брыгады знішчылі электрастанцыю, спалілі аўтарамонтную майстэрню, 2 цэхі, у вер. ўзарвалі падрыхтаваную да адпраўкі ў Германію пілараму і арт. склад. Падпольшчыкі распаўсюджвалі лістоўкі, аказвалі дапамогу сав. ваеннапалонным, якія ўцяклі з лагераў, вялі разведку, выяўлялі варожую агентуру. Тут вызначылася група в. Камень. За баявыя подзвігі ў тыле ворага многія патрыёты ўдастоены ўрадавых узнагарод. Ф. Я. Кухараву, які ў ліп. 1943 пайшоў да партызан, прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

У барацьбе з акупантамі загінулі падпольшчыкі І. Р. Агрызка, С. С. Башылаў, Т. І. Васілеўская, В. С. Веркін, П. М. Грыцава, А. К. Грэбень, І. Ф. Зюзькоў, Г. П. Калугіна, В. П. Куземчанка, Ф. Х. Мядзведзеў, Я. П. Пятрэнкаў, І. М. Смірноў, С. І. Спраўцаў. *М. Ф. Шумейка.*

**ДО́БЫШ** Фёдар Іванавіч (5.3.1906, в. Коханаў Крычаўскага р-на — 29.11.1980), ген.-палк. (1962). Чл. КПСС з 1929. У Чырв. Арміі з 1928. Скончыў Ваен. акадэмію Генштаба (1951). Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну з 1941 на Зах., Калінінскім, Волхаўскім, Паўн.-Зах., Варонежскім, Сцяпным, 2-м і 1-м Укр. франтах: камандзір бамбардзіровачнага авіяпалка, дывізіі. Удзельнік абароны Ленінграда, вызвалення Украіны, Польшчы, Румыніі, Чэхаславакіі, Берлінскай аперацыі. Да 1972 у Сав. Арміі.

**ДО́КШЫЦКА-КРУЛЕ́ЎШЧЫНСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1943,** баі па разгрому ням.-фаш. захопнікаў у г. Докшыцы і на чыг. ст. Крулеўшчына (на лініі Маладзечна — Полацк) 16—17.8. 1943. Праведзена *партызанскай брыгадай 1-й Антыфашысцкай* ва ўзаемадзеянні з *партызанскай брыгадай «Жалязняк»* Мінскай вобл.

Вечарам 16 жн. партызаны акружылі Докшыцы і сіламі аднаго батальёна ачапілі ўсе ваен. аб'екты гарнізона і унтэрафіцэрскую школу. У 6 гадз раніцы 17 жн. нечакана

для ворага штурмавыя групы абяззброілі і ў кароткай перастрэлцы на асобных участках вулічнага бою знішчылі 38 і ўзялі ў палон 60 гітлераўцаў. Потым 1-я Антыфаш. брыгада зрабіла пераход да ст. Крулеўшчына. Яе з флангаў і тылу прыкрывала брыгада «Жалязняк», якая, каб адцягнуць увагу ворага, пачала дзеянні на ўчастку чыгункі ў раёне ст. Параф'янава і паміж Крулеўшчынай і Глыбокім. Да вечара 17 жн. Докшыцы і ст. Крулеўшчына былі поўнасцю ачышчаны ад праціўніка. У выніку жорсткага бою на подступах да ст. Крулеўшчына і ў размяшчэнні гарнізона было знішчана больш за 500 гітлераўцаў, разбураны ўсе станцыйныя збудаванні, узарвана 4 масты, паравознае дэпо з 4 цягнікамі, 35 вагонаў, нафтабаза, склад з боепрыпасамі, гараж з аўтамашынамі, захоплена 2 перасоўныя радыёстанцыі, вял. колькасць харчавання, ваен. амуніцыі, боепрыпасаў і ўзбраення, у т. л. 3 гарматы, 20 кулямётаў, вінтоўкі. У выніку бою ўчастак чыгункі Крулеўшчына — Параф'янава быў выведзены са строю на суткі. Партызаны страцілі каля 40 чал. забітымі і паранянымі. У Крулеўшчыне ў гонар баявой аперацыі партызан у 1964 пастаўлены помнік. *У. С. Пасэ.*



Р. У. Дольнікаў. В. І. Драздовіч.

**ДО́КШЫЦКІ БОЙ 1943,** бой паміж *партызанскай брыгадай «Жалязняк»* і ням.-фаш. захопнікамі ў г. Докшыцы ў лют. 1943.

Докшыцы, якія знаходзіліся на подступах да чыгункі Маладзечна — Полацк, выкарыстоўваліся ворагам як перавалачная база забеспячэння войск на фронце. Тут размяшчаўся буйны варожы гарнізон гітлераўцаў, тылавыя армейскія ўстановы, унтэрафіцэрская школа. Сюды часта адводзіліся на адпачынак з фронту вайсковыя часці гітлераўцаў.

Перад пачаткам аперацыі партызаны перакрылі засадамі ўсе дарогі на Докшыцы. 1-ы атрад брыгады наступаў з ПдЗ, 2-і — з ПдУ, 3-і — з ПнУ, 4-ы прыкрываў наступаўшых з ПнЗ ад чыг. лініі Параф'янава — Крулеўшчына. 6 падрыўных груп павінны былі дыверсіямі на чыгунцы адцягнуць шматлікія фаш. гарнізоны, якія размяшчаліся ўздоўж камунікацыі Маладзечна — Полацк. Наступленне пачалося ў ноч на 3 лютага. Партызаны бясшумна знялі ахову на подступах да гарнізона, знянацку напалі на ворага. Партызанскія батарэі нанеслі ўдар па цэнтры горада, дзе размяшчаліся ўсе ўстановы акупантаў. Партызаны раніцай пакінулі Докшыцы, захапіўшы вял. колькасць маёмасці са складоў праціўніка, а таксама жывёлу, якую акупанты награбілі ў насельніцтва. 19 і 20 лютага партызаны зноў нанеслі раптоўны ўдар па Докшыцкім гарнізоне, выкарыстаўшы ў баі сваю артылерыю. Вораг пацярпеў страты ў жывой сіле і тэхніцы.

*Р. А. Чарнаглазава.*

**ДО́КШЫЦЫ,** горад, цэнтр Докшыцкага р-на, каля вытокаў р. Бярэзіна. За 187 км на З ад Віцебска, за 10 км ад чыг. ст. Параф'янава на лініі Маладзечна — Полацк, на аўтадарозе Бягомль — Глыбокае. 3,6 тыс. жыхароў у 1939. 9.7.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты знішчылі ў Д. і раёне 4931 чал. У раёне дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б (28.9.1943—1.7.1944) і ЛКСМБ (1.10.1942 — 1.7.1944), партыз. брыгады імя Даватара, імя ЦК КП(б)Б, імя Ракасоўскага, імя Леніна, асобны атрад «Баявы» (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«Партизанская правда»*. У Д. стаяў буйны ням.-фаш. гарнізон, які неаднаразова быў разбіты партызанамі (гл. *Докшыцкі бой 1943*, *Докшыцка-Крулеўшчынская аперацыя 1943*). Вызвалены 2.7.1944 воінамі 306-й стралк. дывізіі (ген.-маёр М. І. Кучаравенка) 1-га стралк. корпуса, часткай сіл 10-й гвардз. танк. брыгады (палк. М. У. Волкаў), 1203-м самаходным артпалкам (падпалк. А. І. Сяроў) 43-й арміі 1-га Прыбалт. фронту, а таксама 1-м партыз. атрадам (Р. Е. Ахоненка) партыз. брыгады «Жалязняк» у час *Полацкай аперацыі 1944*. У Д. брацкія магілы сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму, на іх помнікі; у гонар воінаў-вызваліцеляў пастаўлены помнік Вызвалення.

*У. М. Якубоўскі.*

**ДО́ЛЬНІКАЎ** Рыгор Усцінавіч (н. 8.5.1923, в. Сахараўка Горацкага р-на), Герой Сав. Саюза (1978), ген.-палк. авіяцыі (1981), засл. ваен. лётчык СССР (1965). Чл. КПСС з 1944. Скончыў Мінскі аэраклуб, Батайскую школу пілотаў (1943), Ваен.-паветр. акадэмію (1955). З чэрв. 1943 на Паўд., 4-м, 2-м і 1-м Укр. франтах. У паветр. баі тараніў варожы самалёт і быў вымушаны скочыць з парашутам. У непрытомным стане трапіў у палон, прайшоў праз некалькі канцлагераў, уцёк да партызан. У вер. 1943— крас. 1944 у партыз. атрадзе «За Савецкую Радзіму» Адэскай вобл. З крас. 1944 на фронце, лётчык, камандзір звяна знішчальнага авіяпалка. Зрабіў 160 баявых вылетаў, асабіста збіў 16 самалётаў праціўніка, 1— у складзе групы. Удзельнік вызвалення Украіны, Польшчы, Чэхаславакіі. Служыць у Сав. Арміі.

**ДО́МНІКАЎ** Павел Пракопавіч (1906, пас. Новая Вёска Лоеўскага р-на — ліст. 1942), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Палескай вобл. Чл. КПСС з 1930. Скончыў Гомельскі аўтадарожны тэхнікум (1934). З 1938 2-і сакратар Хойніцкага РК КП(б)Б. З 25.8.1941 сакратар Хойніцкага падп. РК КП(б)Б, камісар *партызанскага атрада Хойніцкага*. Загінуў у баі з карнікамі. Пахаваны ў Хойніках, дзе яго імем названа вуліца.

**ДО́ЎГАЕ ПО́ЛЕ**, вёска на тэр. Кіраўскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1,5 км на Пн ад в. Боркі Грыбавецкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 135 чал. 15.6.1942, у час карнай аперацыі *«Хрущ»*, фашысты загубілі 135 жыхароў, вёску (20 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Ахвяры фашызму пахаваны ў в. Боркі, у 1964 на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і дзяўчыны. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ДРАГІ́ЧЫН**, горад, цэнтр Драгічынскага р-на. За 110 км на У ад Брэста, 7 км ад чыг. ст. Драгічын на лініі Брэст — Пінск, на аўтадарозе Брэст — Гомель. 25.6.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў Д. і раёне 4498 чал. У горадзе і раёне дзейнічалі Драгічынскія падп. райкомы КП(б)Б (26.6.1943—30.3.1944) і ЛКСМБ (1.10.1943—30.3.1944), партыз брыгады 150-я імя Ф. М. Языковіча, імя Молатава, імя Свярдлова, «Савецкая Беларусь», асобны партыз. атрад імя Шчорса, партыз. спецгрупа «Іскра» (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«Красная заря»*. Вызвалены 17.7.1944 воінамі 61-й арміі (ген.-лейт. П. А. Бялоў) і інш. 1-га Бел. фронту ў ходзе *Беларускай аперацыі 1944*. У Д. брацкія магілы сав. воінаў, сав. воінаў і партызан, магілы партызан і ахвяр фашызму, на якіх пастаўлены помнікі, мемар. дошка воінам-вызваліцелям і партызанам. *В. В. Гетаў.*

**ДРАЖА́КІ**, вёска на тэр. Шумілінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на ПдЗ ад в. Казяны, справа ад дарогі на в. Роўнае. Перад вайной у ёй жыў 51 чал. У сак. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 39 жыхароў, вёску (12 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1969 на месцы вёскі пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ДРАЗДО́ВІЧ** Вікенцій Іосіфавіч (15.8.1911, в. Навасёлкі Капыльскага р-на — 3.12.1942), удзельнік партыз.

руху ў Мінскай вобл. Герой Сав. Саюза (1965). Чл. КПСС з 1941. З жн. 1941 ствараў падп. арг-цыі на радзіме. З ліп. 1942 камандзір узвода атрада імя Катоўскага *партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава* Мінскай вобл. У час карнай экспедыцыі гітлераўцаў супраць партызан у Капыльскім р-не Д. узначаліў партыз. засаду каля в. Клецішча. 18 партызан на працягу 4 гадз адбілі 8 атак фаш. батальёна, сарвалі намер ворага нанесці раптоўны ўдар па партыз. брыгадзе, аднак былі акружаны і ўсе загінулі ў няроўным баі (гл. *Лаўскі бой 1942*). Яго імем названа вуліца ў г. Капыль, у цэнтры саўгаса «Лясно» Капыльскага р-на пастаўлены помнік.

**ДРАМЛЁВА**, вёска на тэр. Жабінкаўскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1 км на У ад в. Сцяпанкі. Перад вайной у ёй жыло 290 чал. 11.9.1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 286 жыхароў, у т. л. 124 дзіцяці і 74 жанчыны, вёску (43 двары) спалілі, маёмасць разрабавалі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1967 на месцы вёскі насыпаны курган, на яго вяршыні ўстаноўлены гранітны валун. Вёска ўвекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**«ДРАНГ НАХ ОСТЭН»** (ням. Drang nach Osten — націск на Усход), захопніцкая палітыка ням. феадалаў, а затым буржуазна-юнкерскай і імперыялістычнай Германіі ў адносінах да краін Цэнтр., Усх. і Паўд.-Усх. Еўропы. Яе пачатак паклалі разбойніцкія «крыжовыя» паходы ням. феадалаў у 9—13 ст. супраць народаў Польшчы, Чэхіі, Русі і Прыбалтыкі. Паходы суправаджаліся каланізацыяй іх зямель, знішчэннем значнай ч. карэннага насельніцтва, яго германізацыяй. Зброяй ням. экспансіі на Усход былі, у прыватнасці, Тэўтонскі і Лівонскі ордэны. У ліку важнейшых вех барацьбы славянскіх народаў і насельніцтва Прыбалтыкі супраць ням. агрэсіі — Лядовае пабоішча 1242 і Грунвальдская бітва 1410. Ідэолагі «Д. н. О.» прыкрывалі захопніцкія мэты расісцкай тэорыяй непаўнацэннасці славянскіх і інш. народаў Еўропы, іх няздольнасцю да самастойнага дзярж. існавання. Пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі гэта канцэпцыя набыла ярка выражаны антысавецкі характар. Германскі фашызм, які прыйшоў да ўлады ў пач. 1930-х г., зрабіў «Д. н. О.» адной з гал. частак сваёй ідэалогіі і палітыкі, давёў да крайняй грані яе шавінізм і расізм. Выстаўляючы геапалітычную ідэю аб неабходнасці расшырэння «жыццёвай прасторы» для немцаў, ён развязаў 2-ю сусв. вайну, імкнуўся знішчыць першую ў свеце сацыяліст. дзяржаву — Савецкі Саюз, заняволіць інш. краіны Цэнтр. і Паўд.-Усх. Еўропы. Разгром фаш. Германіі нанёс рашаючы ўдар тэорыі і палітыцы «Д. н. О», якія на працягу стагоддзяў атручвалі свядомасць ням. народа пагардай да інш. народаў, уяўнай перавагай «германскай расы». Найбольш рэакцыйныя рэваншысцкія і мілітарысцкія колы ФРГ спрабуюць адрадзіць канцэпцыю «Д. н. О.», надаўшы ёй антыкамуніст. накіраванасць.

*У. І. Лемяшонак.*

**ДРОЗД** Валянцін Пятровіч (16.9.1906, г. Буда-Кашалёва — 29.1.1943), віцэ-адмірал (1941). Чл. КПСС з 1930. У ВМФ з 1925. Скончыў ваенна-марское вучылішча імя Фрунзе (1928). На Балтыйскім флоце з 1928. У 1936—37 удзельнічаў у нац.-рэв. вайне ў Іспаніі. У 1938—40 камандуючы Паўн. флотам, удзельнік сав.-фінл. вайны. У Айч. вайну з вер. 1941 камандуючы эскадрай караблёў Балтыйскага флоту, удзельнік абароны Ленінграда: кіраваў баявымі дзеяннямі караблёў у Ірбенскім праліве і пры абароне Маанзундскіх астравоў. Атрад караблёў пад яго камандаваннем у жн. 1941 зрабіў пераход з Таліна ў Кранштат. У ліст.— снеж. 1941 камандаваў атрадам караблёў, якія правёў эвакуацыю абаронцаў паўвострава Ханка. Загінуў на лядовай трасе пад Кранштатам. Пахаваны ў Ленінградзе. Яго імем названы вуліца ў Буда-Кашалёве, карабель на Паўн. флоце. У Буда-Кашалёве помнік.

**ДРОЗД** Мікалай Пракопавіч (падп. псеўд. Д з я д з ь к а  В а с я; 1890, в. Селішча Навагрудскага р-на — 1943), удзельнік *Мінскага партыйнага падполля.* З 1939 рабочы лямцавай ф-кі «Чырвоны Кастрычнік». У перыяд акупацыі Мінска ням.-фаш. захопнікамі арганізаваў і ўзначаліў падп. групу. На яго кватэры захоўваліся зброя, боепрыпасы, медыкаменты, у 1941 адбыліся 2 пасяджэнні *Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б*, хаваліся падпольшчыкі і сав. ваеннаслужачыя, якія трапілі ў акружэнне. Яго жонка Алена Адамаўна і дочкі Рэгіна і Яніна былі сувязнымі партыз. атрада «Дзімы». Удзельнічаў у падрыхтоўцы аперацыі па знішчэнню ката бел. народа В. Кубэ. 24.9.1943 Д., яго жонка і дачка Рэгіна арыштаваны гітлераўцамі і пасля катаванняў загублены ў *Трасцянецкім лагеры смерці.* У Мінску яго імем названа вуліца, на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемар. дошка.

**ДРУЖБА НАРОДАЎ СССР**, усебаковая брацкая садружнасць і ўзаемадапамога нацый і народнасцей Сав. шматнац. дзяржавы на аснове сацыяліст. ладу, адзінства вял. мэт, марксісцка-ленінскай ідэалогіі, пралетарскага інтэрнацыяналізму, паслядоўнага правядзення Камуніст. партыяй ленінскай нац. палітыкі. З асаблівай сілай Д. н. СССР праявілася ў гады Вял. Айч. вайны. Рыхтуючы напад на СССР, верхаводы фаш. Германіі спадзяваліся пры першым удары расшаліць міжнац. варожасць, якая дапамагла б ім заняволіць Сав. дзяржаву. Аднак з першых дзён вайны ўсе нацыі і народнасці краіны разам з рускім народам, які стаў асн. сілай у разгроме ворага, пад кіраўніцтвам Камуніст. партыі згуртаваліся ў барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў. Толькі ў першыя месяцы вайны ў сав. Узброеныя Сілы ўліліся больш за 2 млн. украінцаў, 500 тыс. беларусаў (усяго на франтах змагалася больш за 1,3 млн. беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі), 500 тыс. таджыкаў, узбекаў, казахаў, кіргізаў, туркмен, больш за 600 тыс. грузін, азербайджанцаў, армян і інш. народаў Закаўказзя.



В. П. Дрозд. М. П. Дрозд.

Сярод абаронцаў Брэсцкай крэпасці былі прадстаўнікі больш як 30 нацыянальнасцей. Д. н. СССР яскрава праявілася ў подзвігу абаронцаў Мінска, Магілёва, Віцебска, Гомеля, Смаленска, Севастопаля і інш. гарадоў. Сыны ўсіх народаў СССР абаранялі Маскву, выстаялі і разграмілі тут буйнейшую групоўку войск праціўніка. Сімвалам Д. н. СССР стаў подзвіг 28 воінаў-панфілаўцаў са шматнац. роты беларуса капітана П. Гундзіловіча, якія на чале з палітрукам В. Г. Клачковым уступілі ў няроўную схватку з некалькімі дзесяткамі варожых танкаў, што рваліся да Масквы, і перамаглі. Непарушная Д. н. СССР праявілася ў час *Сталінградскай бітвы 1942—43.* Разам з рускімі, украінцамі, беларусамі тут змагаліся казахі, узбекі, татары, бураты, башкіры, чувашы і інш. Гітлераўцы, якія за 44 дні пакарылі Францыю, за 19 — Галандыю і Бельгію, 58 дзён штурмавалі ў Сталінградзе «Дом Паўлава», аднак не зламілі супраціўлення 24 байцоў розных нацыянальнасцей. У 1941—45 на аснове рашэнняў Дзярж. к-та абароны, ЦК ВКП(б) і СНК СССР сфарміраваны дзесяткі нац. дывізій і брыгад у асн. за кошт людскіх і матэрыяльных рэсурсаў РСФСР, Закаўказзя, Казахстана, Сярэдняй Азіі, Прыбалтыкі. Д. н. СССР азорана масавым гераізмам сав. людзей. Услед за рускім І. І. Івановым і беларусам М. Ф. *Гастэлам* у гады вайны сав. лётчыкі здзейснілі больш за 1 тыс. паветр. і наземных

таранаў, у якіх удзельнічала каля 2 тыс. чал., у т. л. рускія А. С. *Данілаў*, С. М. *Гудзімаў* — у першы дзень вайны ў небе Беларусі, а беларус Л. Г. *Бутэлін* — над Украінай. Унікальныя подзвігі здзейснілі ў небе Расіі лётчыкі-беларусы Б. І. *Коўзан*, які 4 разы тараніў варожыя самалёты, і А. К. *Гаравец*, што ў адным паветр. баі збіў 9 фаш. самалётаў. Прадстаўнікі 33 нацыянальнасцей удастоены звання Герой Сав. Саюза за подзвігі пры фарсіраванні Дняпра. Пры вызваленні тэр. брацкіх народаў сваімі целамі закрылі амбразуры варожых дзотаў беларусы П. І. *Аўрамкаў*, П. І. *Купрыянаў*, У. І. *Ярмак* і інш., пры вызваленні Беларусі — рускія К. П. *Кутрухін*, У. Я. *Смірноў*, грузін Г. В. Майсурадзе, казах С. *Іскалііеў* і інш. Усяго за гады вайны Героямі Сав. Саюза сталі 8160 рускіх, 2069 украінцаў, 309 беларусаў, 161 татарын, 108 яўрэяў, 96 казахаў, 90 армян, 90 грузін, 69 узбекаў, 61 мардвін, 44 чувашы, 43 азербайджанцы і інш.

Дзякуючы брацкай узаемадапамозе народаў СССР былі пераадолены вял. цяжкасці, звязаныя з *эвакуацыяй* з Беларусі на ўсход краіны насельніцтва. Д. н. знайшла сваё адлюстраванне і ў самаадданай рабоце працаўнікоў тылу, якія мацавалі ваен. магутнасць Радзімы. Каля 80 % усёй ваен. прадукцыі выраблялa РСФСР. Асн. базай каляровай металургіі быў Казахстан. Узбекістан пастаўляў фронту самалёты, зброю, боепрыпасы, забяспечваў лёгкую прамысловасць бавоўнай. 270 відаў ваен. прадукцыі давала Арменія. Грузія выраблялa мінамёты, аўтаматы, агнямёты, міны, гранаты. Азербайджан паставіў 90 % усіх гаруча-змазачных матэрыялаў. Дружба і ўзаемадапамога ў шматнац. калектывах працаўнікоў сельскай гаспадаркі, дзе асн. рабочай сілай былі жанчыны, старыя і падлеткі, дапамаглі ім у складаных умовах выйграць бітву за хлеб. Дэманстрацыяй Д. н. СССР стаў масавы рух усенар. *дапамогі фронту*, стварэнне фондаў абароны Гал. камандавання Чырв. Арміі, дапамогі дзецям, донарства і інш.

Д. н. СССР з'явілася важнай асновай *усенароднай барацьбы ў тыле ворага* на часова акупіраванай тэр. СССР. На тэр. Беларусі ў партыз. фарміраваннях змагаліся 374 тыс. патрыётаў больш за 70 нацыянальнасцей, у т. л. 71,1 % беларусаў, 19,3 рускіх, 3,9 украінцаў, 5,7 % астатніх. Кіраўнікамі партыз. руху побач з беларусамі былі рускія М. П. *Канстанцінаў*, А. Ф. *Данукалаў*, У. І. *Нічыпаровіч*, С. Г. *Жунін*, В. І. *Лівенцаў*, *Я. Ф. Філіпскіх*, украінцы В. Т. *Варанянскі*, Г. А. *Кірпіч*, П. П. *Капуста*,грузіны І. Г. *Шубітыдзе*, У. М. *Талаквадзе*, армяне С. Х. *Арзуманян*, Х. А. *Матэвасян*, узбек М. *Тапівалдыеў*, латышы У. І. *Тубеліс*, І. І. *Юкша*, літовец С. А. *Ваўпшасаў*, карачаевец А. М. *Касаеў*, марыец Р. А. *Ахоцін* і інш. Партызаны і падпольшчыкі, падтрыманыя мясцовым насельніцтвам, наносілі значныя страты захопнікам. Па ініцыятыве шэрагу сібірскіх парт. арг-цый бел. партызанам аказвалася матэрыяльная дапамога: летам 1942 толькі з Новасібірскай вобл. прыйшло больш за 3 700 пасылак, у снеж. 1942 адпраўлена значная колькасць цёплага адзення (гл. таксама *Дапамога савецкага тылу партызанам* Беларусі). Вопытам барацьбы перыяду грамадз. вайны падзяліліся кіраўнікі сібірскіх партызан, якія пабывалі ў бел. партызан у ліп. 1942. БШПР падтрымліваў цесную сувязь з шэрагам абкомаў ВКП(б) РСФСР, ЦК кампартый Украіны, Латвіі і Літвы, іх штабамі партыз. руху. Да канца 1942 сіламі бел., рус. і латышскіх партызан была вызвалена значная тэрыторыя і створаны партыз. край плошчай 10 тыс. км² з насельніцтвам больш за 100 тыс. чал. Беларускае і Укр. Палессе было месцам стварэння і апорнай базай шматлікіх атрадаў і брыгад укр., бел. і малдаўскіх партызан. На тэр. Беларусі знаходзіліся базы літоўскіх партызан, якія разам з беларусамі ўдзельнічалі ў разгроме ням. гарнізонаў, адбіцці карных аперацый. Шматнацыянальнымі былі і падп. арг-цыі ў гарадах, пасёлках, на чыг. станцыях. У вызваленні Беларусі ад ням.-фаш захопнікаў удзельнічалі ўсе нацыі і народнасці нашай краіны, больш за 1600 чал. былі ўдастоены звання Герой Сав. Саюза. У лют. 1943 народы СССР уключыліся ў рух за стварэнне пры СНК СССР спец. фонду дапамогі раёнам, вызваленым ад ням.-фаш. захопнікаў. У 12 саюзных і аўтаномных рэспубліках былі ўтвораны шэфскія к-ты для арганізацыі работы па аднаўленні нар. гаспадаркі на вызваленай тэрыторыі (гл. *Аднаўленне народнай гаспадаркі БССР у 1943—45*). Камуністычная партыя на фронце і ў тыле арганізоўвала работу па інтэрнац. выхаванню. Выдаваліся вял. тыражамі працы У. І. Леніна па нац. пытанні, пра абарону сацыяліст. Айчыны і інш. 18 разоў на дзень на 70 мовах народаў СССР перадаваліся па радыё зводкі Саўінфармбюро. Класавае адзінства, Д. н. СССР, паслядоўная ленінская нац. палітыка сталі важнымі крыніцамі перамогі СССР у Вял. Айч. вайне. У гонар перамогі сав. народа над фаш. Германіяй, як сімвал непарушнага адзінства, баявой і працоўнай садружнасці рус., укр. і бел. народаў у Добрушскім р-не за 7 км ад в. Кругавец-Калініна пастаўлены помнік Дружбы. У памяць аб баявой садружнасці рус., бел. і латышскіх партызан на стыку трох рэспублік, каля в. Прошкі Верхнядзвінскага р-на, насыпаны курган Дружбы. У Віцебскай вобл. створаны *Расонскі музей баявой садружнасці* рус., бел., латышскіх і літоўскіх партызан.

*А. С. Харэбін.*

**ДРУЖЫ́НІН** Міхаіл Іванавіч (н. 15.9.1920, в. Дзям'янцава Бежыцкага р-на Калінінскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1945), ген.-палк. (1978). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Маскоўскае ваен.-паліт. вучылішча (1944), Вышэйшы ваенна-пед. ін-т (1955), Ваен. акадэмію Генштаба (1962). З 1944 на 3-м Бел. фронце. Камсорг стралк. батальёна ст. лейтэнант Д. вызначыўся пры вызваленні Віцебскай вобл. 23.6.1944 узначаліў атаку батальёна, з 4 байцамі захапіў пераправу цераз р. Лучоса і ўтрымліваў яе да падыходу асн. сіл. Паранены, не пакінуў поля бою. Служыць у Сав. Арміі. Ганаровы грамадзянін г. Віцебск.

**ДРУК ПАДПО́ЛЬНЫ**, выданні, якія выпускаліся *Цэнтральным Камітэтам КП(б)Б*, падп. абласнымі, міжраённымі, раённымі парт. і камсам. к-тамі, паліторганамі партыз. фарміраванняў на часова акупіраванай ням.-фаш. захопнікамі тэр. Беларусі і распаўсюджваліся сярод насельніцтва. Цэнтр. газеты «Правда», «Известия», «Комсомольская правда», «Красная звезда» і інш. арганічна дапаўнялі бел. выданні — газеты *«Савецкая Беларусь», «За Савецкую Беларусь», «За свабодную Беларусь»*, сатырычныя *«Раздавім фашысцкую гадзіну»*, лісток *«Партызанская дубінка»*, «Блокнот агитатора-партизана», часопіс *«Беларусь»*, якія засылаліся ў тыл ворага.

Першымі падп. выданнямі былі лістоўкі і звароты да насельніцтва, машынапісныя газеты і бюлетэні. У Мінску падп. група А. А. Маркевіча з канца 1941 друкавала на шапірографе лістоўкі, у студз.— жн. 1942 выпусціла 8 нумароў малафарматнай газеты *«Патриот Родины»*. Першым нелегальным друкаваным парт. выданнем быў *«Вестник Родины»* — перыядычны лісток *Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б*. У маі — вер. 1942 Мінскі падп. гарком КП(б)Б выдаў 4 нумары *«Звязды»* агульным тыражом болей за 10 тыс. экз. Пад кіраўніцтвам У. С. *Амельянюка* і В. К. *Нікіфарава* ў падрыхтоўцы і выпуску газеты ўдзельнічалі М. П. Воранаў, У. С. Казачонак, Н. А. Карпусенка, Я. М. *Савіцкая*, В. І. Сайчык, М. І. Свірыдаў і інш. падпольшчыкі. У паходнай друкарні ў прыфрантавой паласе друкавалася і перапраўлялася на тэр. Віцебскай вобл. газ. *«Віцебскі рабочы»*. У 1942 друкарскім спосабам быў арганізаваны выпуск 6 раённых і 1 міжраённай газет — органаў Клічаўскага, Рудзенскага, Бярэзінскага, Бабруйскага, Віцебскага, Чэрвеньскага падп. райкомаў КП(б)Б і *Барысаўскага падпольнага міжрайпартцэнтра*; на пішучых машынках і гектографе размнажалася газ. *«За Родину»*, якую выдаваў Магілёўскі падп. «Камітэт садзеяння Чырвонай Арміі». У студз. 1943 адноўлены выпуск «Звязды» як органа ЦК і *Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б*,

**ДРЫНЬ** Савелій Рыгоравіч (4.1.1912, в. Таўбозіна Унецкага р-на Бранскай вобл.— 25.6.1944), Герой Сав. Саюза (1944). На фронце з вер. 1943. Радавы Д. вызначыўся пры вызваленні Гомельскай вобл. 25.6.1944 у баі за в. Святое Возера Рагачоўскага р-на ён і ст. лейтэнант В. С. *Уткін* з гранатамі кінуліся пад самаходную гармату «фердынанд». Цаной свайго жыцця воіны сарвалі контратаку праціўніка. Пахаваны ў Рагачове.

**ДРЫСЕНСКАЯ АПЕРАЦЫЯ 1942**, падрыў 110-метровага чыг. моста цераз р. Дрыса на лініі Даўгаўпілс — Полацк у Дрысенскім р-не. Праведзена партыз. брыгадай «За Савецкую Беларусь» (гл. *Партызанская брыгада імя К. К. Ракасоўскага*) 4.8.1982.

Мост ахоўваўся фаш. гарнізонам колькасцю каля 70 чал., падыходы былі замініраваны, абнесены агароджай з калючага дроту. Буйныя гарнізоны праціўніка знаходзіліся на бліжэйшых станцыях Свольна, Дрыса, Барковічы, Баравуха. У аперацыі удзельнічала 6 атрадаў (больш за 300 чал.).

У ходзе аперацыі партызаны атрада імя Калініна, адцягваючы ўвагу ворага, абстралялі з процітанк. гарматы і кулямётаў ст. Барковічы, вывелі са строю гармату, паравоз, знішчылі 15 салдат праціўніка. 2 атрады прыкрывалі партызан з боку пераправы цераз р. Дрыса каля в. Дзёрнавічы і занялі абарону на выпадак падыходу да моста бранепоезда гітлераўцаў са ст. Свольна. У 4 гадз 30 мін пасля 10-мінутнага арт. і кулямётнага агню ўдарная група ў складзе 3 атрадаў пад кіраўніцтвам камандзіра атрада імя Шчорса П. М. *Машэрава* атакавала і ў 2-гадзінным баі знішчыла ахову моста. Група падрыўнікоў на чале з П. Р. Мандрыкіным падвяла плот з 400 кг толу пад сярэднюю апору моста. У 6 гадз раніцы мост быў узарваны. Два пралёты даўжынёю 50 м абрушыліся ў ваду. У выніку аперацыі рух на магістралі быў спынены на 16 сутак. Замест узарванай апоры гітлераўцы паставілі клець са шпал на адзін пуць. Прапускная здольнасць дарогі паменшылася з 60 да 8 эшалонаў у суткі.

*М. У. Філімоненкаў.*

**ДУБАВІЦЫ**, вёска на тэр. Віцебскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на У ад в. Кавалёва Запольскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 193 чал. У кастр. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 28 жыхароў, вёску (42 двары) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ДУБІЕЎ** Іван Васілевіч (18.3.1916, р. п. Тацынскі Растоўскай вобл.— 17.6.1980), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсамольска-маладзёжнага падполля ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1939. У Чырв. Арміі з 1937. Скончыў ваен.-паліт. вучылішча імя Фрунзе. З чэрв. 1942 камсам. арганізатар, з 22.11.1942 пам. упаўнаважанага ЦК ЛКСМБ па Магілёўскай вобл., адначасова з 8.3.1943 чл. Магілёўскага падп. РК КП(б)Б. Член, з 25.1 да 28.6.1944 сакратар *Магілёўскага падпольнага абкома ЛКСМБ*. У 1944—77 на парт. і сав. рабоце.

**ДУБОВІК** Іван Фёдаравіч (1894—27.5.1944), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1919. З 1918 у Чырв. Арміі. З 1921 на парт. і гасп. рабоце. У 1939—41 дырэктар хлебазавода ў Заслаўі. З ліп. 1942 у тыле ворага: камандзір дыверсійнай групы, у жн. 1942— студз. 1943 камісар атрада імя Фрунзе *партызанскай брыгады «Штурмавая»*, адначасова з снеж. 1942 да 27.5.1944 1-ы сакратар Заслаўскага падп. РК КП(б)Б. Загінуў.

**ДУБОВІК** Уладзімір Аляксандравіч (н. 7.7.1903, засценак Немча, Слуцкі р-н), ген. лейт. (1959). Чл. КПСС з 1928. У Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1934). Да 1940 у Генштабе РСЧА, потым у Забайкальскай ваен. акрузе. З крас. 1944 камандзір дывізіі. Удзельнік вайны з імперыялістычнай Японіяй. Пасля вайны на адказных пасадах у Сав. Арміі.

**ДУБОЎКА** Домна Аляксандраўна (падп. псеўд. Т а м а р а: 3.10.1918, в. Веляшковічы Лёзненскага р-на — 21.3.1966), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсам. падполля ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1944. З 1939 сакратар Чыжаўскага РК ЛКСМБ Беластоцкай вобл. З чэрв. 1941 на падпольнай рабоце ў Лёзненскім р-не. Арганізавала падпольныя камсамольскія групы ў вёсках Веляшковічы, Заверына, Замшына і інш. Падпольшчыкі распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, збіралі зброю, па заданню 4-й ударнай арміі вялі разведку дыслакацыі праціўніка. З 15.8.1941 да 10.10.1943 сакратар Лёзненскага падп. РК ЛКСМБ, пам. камісара па камсамолу *партызанскай брыгады імя А. Ф. Данукалава*.Пасля перадыслакацыі ў 1943 брыгады ў зах. раёны пакінута на чале невял. атрада, які рабіў налёты на гарнізоны, мініраваў дарогі, вёў паліт. работу сярод насельніцтва, перашкаджаў адпраўцы сав. грамадзян на катаргу ў Германію. Ням. камандаванне вызначыла ўзнагароду ў 5 тыс. марак таму, хто зловіць Д. З кастр. 1943 на камсам., сав. і гасп. рабоце. Яе імем названа вуліца ў г. п. Лёзна.

**ДУБРАВА**, вёска на тэр. Віцебскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1 км на Пд ад в. Прывольная (да 1964 Сапуны) Вымнянскага сельсавета. Перад вайной у ёй жылі 144 чал. 14.12.1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 99 жыхароў, у т. л. 40 дзяцей, вёску (32 двары) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1958 на месцы вёскі пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ДУБРОЎНА**, горад, цэнтр Дубровенскага р-на, на р. Дняпро, за 92 км на ПдУ ад Віцебска, за 8 км ад чыг. станцыі Асінаўка на лініі Орша — Смаленск. Аўтадарогамі злучана з Оршай і Горкамі. 9,9 тыс. чал. у 1939. У пачатку ліп. 1941 у раёне Дуброўны жорсткія баі з фаш. захопнікамі вялі 18-я (палк. К. В. Свірыдаў) і 73-я (палк. А. І. Акімаў) стралк. дывізіі 20-й арміі. Акупіравана ням.-фаш. захопнікамі 16.7. 1941. За час акупацыі ў горадзе і раёне фашысты знішчылі 14 110 чал., у т. л. у горадзе каля 3 тыс. чал. На тэр. раёна дзейнічалі Дубровенскія падп. райкомы КП(б)Б (11.11.1943— чэрв. 1944) і ЛКСМБ (1.11.1942—30.6. 1944), партыз. брыгады 115-я Горацкая, «Звязда», асобныя атрады 112-ы Горацкі, «Трэцяя» (гл. адпаведныя артыкулы). Вызвалена 26.6 1944 войскамі 331-й стралк. дывізіі (ген.-маёр П. П. Берастаў) 71-га




Мемарыяльная дошка ў в. Байкі на доме, дзе знаходзілася падпольная друкарня Брэсцкага абласнога антыфашысцкага камітэта.

стралк. корпуса, 220-й стралк. дывізіі (палк. В. А. Палявік) 36-га стралк. корпуса 31-й арміі, 307-й (палк. А. У.

Па няпоўных даных гітлераўцы праводзілі аперацыю ў вёсках Халмецічы, Ляды, Дуброўка, Прылепы і вярталіся ў Лагойск «пры палымнеючым зарыве». Вёска Прылепы Смалявіцкага р-на была спалена, 29 яе жыхароў расстраляны. Батальёнам Дырлевангера 22.3.1943 была спалена в. *Хатынь* разам з жыхарамі.

*У. С. Пасэ.*

**ДЫРЭКТЫ́ВА СНК СССР І ЦК ВКП(б) АД 29.6.1941 ПАРТЫ́ЙНЫМ І САВЕ́ЦКІМ АРГАНІЗА́ЦЫЯМ ПРЫФРАНТА́ВЫХ АБЛАСЦЕ́Й,** асн. праграмны дакумент, які вызначыў гал. напрамкі ваен. і эканамічнай палітыкі Камуніст. партыі і Сав. ўрада па мабілізацыі ўсіх сіл і сродкаў сав. народа на разгром фаш. захопнікаў. Галоўная ідэя дырэктывы — «Усё для фронту, усё для Перамогі!». У ёй дадзены аналіз ваен.-паліт. і міжнар. становішча, раскрыты справядлівы, вызваленчы характар вайны з боку Сав. дзяржавы і захопніцкі, імперыялістычны характар вайны з боку фаш. Германіі, паказана ўся глыбіня небяспекі, якая навісла над Сав. краінай, пастаўлена задача неадкладнай перабудовы дзейнасці ВКП(б), сав., прафс. і камсам. арг-цый дастасоўна да ўмоў ваен. часу. Галоўным у дзейнасці ВКП(б) па ператварэнню краіны ў адзіны ваен. лагер была ваенна-мабілізацыйная работа, умацаванне арміі, перабудова работы сав. тылу, перавод нар. гаспадаркі на ваен. рэйкі, павелічэнне выпуску ваен. прадукцыі. Дырэктыва патрабавала разгарнуць сярод насельніцтва і воінаў Чырв. Арміі ўсебаковую паліт. работу, выхоўваць у сав. людзей храбрасць, адвагу, бясстрашнасць у барацьбе з ворагам, растлумачваць працоўным існуючае становішча і іх абавязкі. Партыя і ўрад заклікалі сав. воінаў самааддана адстойваць кожную пядзю роднай зямлі, не прапускаць ніводнай магчымасці ў барацьбе з ворагам; у раёнах, занятых праціўнікам, арганізоўваць партыз. атрады і дыверсійныя групы, ствараць невыносныя ўмовы для захопнікаў, праследаваць і знішчаць іх на кожным кроку; пры вымушаным адыходзе сав. войск не пакідаць ворагу каштоўнасці і маёмасць, весці бязлітасную барацьбу з дэзарганізатарамі тылу, панікёрамі, распаўсюджвальнікамі лжывых чутак, знішчаць шпіёнаў і дыверсантаў. Дырэктыва патрабавала згуртаваць увесь народ вакол Камуніст. партыі і Сав. ўрада для самаадданай падтрымкі Чырв. Арміі, для перамогі. Змест дырэктывы быў выкладзены І. В. Сталіным у прамове па радыё 3.7. 1941. Увасобіўшы ў сабе ленінскія ідэі па абароне сацыяліст. Айчыны, дырэктыва была ўспрынята як баявая праграма мабілізацыі ўсіх сіл партыі і народа на разгром ворага, сыграла вял. ролю ў перабудове ўсяго жыцця краіны на ваен. лад, падрыхтоўцы ўмоў для дасягнення Перамогі.

*У. І. Лемяшонак.*

**ДЫРЭКТЫ́ВА ЦК КП(б)Б ад 30.6.1941 АБ ПАДРЫХТО́ЎЦЫ ДА ПЕРАХО́ДУ НА ПАДПО́ЛЬНУЮ РАБО́ТУ ПАРТАРГАНІЗА́ЦЫЙ РАЁНАЎ, ЯКІ́Я ЗНАХО́ДЗІЛІСЯ ПАД ПАГРО́ЗАЙ ФАШЫ́СЦКАЙ АКУПА́ЦЫІ.** Прынята з мэтай выканання ўказанняў ЦК ВКП(б) і разаслана парт. к-там у прыфрантавыя вобласці рэспублікі. Дырэктыва ставіла задачы, указвала напрамкі і метады барацьбы, вызначала арганізацыйныя формы парт. падполля ў тыле ворага, абавязвала парт. органы пад асабістую адказнасць першых сакратароў абкомаў, гаркомаў і райкомаў КП(б)Б забяспечыць уважлівы адбор камуністаў для работы ў тыле ворага, наладзіць яўкі і сувязі, падабраць і ўкамплектаваць падп. партцэнтры і групы. ЦК КП(б)Б для кіраўніцтва дзейнасцю партыз. атрадаў і дыверсійных груп у занятых ворагам раёнах, барацьбы з часцямі варожай арміі, арганізацыі партыз. вайны ў тыле ворага, узрыву мастоў, дарог, пашкоджання тэлеграфна-тэлефоннай сувязі, падпалу складоў, стварэння невыносных умоў для ворага, зрыву ўсіх яго мерапрыемстваў, прапанаваў абкомам, гаркомам і райкомам партыі загадзя ствараць ва ўсіх гарадах, раённых цэнтрах, рабочых пасёлках, на чыг. станцыях, у саўгасах і калгасах падп. ячэйкі і явачныя кватэры. Для кіраўніцтва дзейнасцю ячэек арганізаваць гар. і раённыя тройкі ў саставе сакратара гаркома ці райкома партыі, ваен. работніка і аргработніка. У дырэктыве рэкамендавалася пры стварэнні падп. ячэек, у мэтах іх большай канспірацыі, падбіраць камуністаў, малавядомых у горадзе і раёне, дапускаючы перакідку з інш. раёнаў і прадпрыемстваў. Вылучаных для падп. работы супрацоўнікаў рэкамендавалася своечасова перавесці на нелегальнае становішча, праінструктаваць і азнаёміць з умовамі падп. работы. Дырэктыва сыграла вял. ролю ў дзейнасці парт. органаў па стварэнню парт. падполля, развіццю партыз. руху на акупіраванай ворагам тэр. рэспублікі.

*У. І. Лемяшонак.*

**ДЫРЭКТЫ́ВА ЦК КП(б)Б АД 1.7.1941 ПАРТЫ́ЙНЫМ, САВЕ́ЦКІМ І КАМСАМО́ЛЬСКІМ АРГАНІЗА́ЦЫЯМ ПА РАЗГО́РТВАННЮ ПАРТЫЗА́НСКАЙ ВАЙНЫ́ Ў ТЫЛЕ ВО́РАГА.** Прынята з мэтай выканання ўказанняў СНК СССР і ЦК ВКП(б), выкладзеных у *Дырэктыве СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 29.6.1941 партыйным і савецкім арганізацыям прыфрантавых абласцей.* Вызначала задачы парт. і камсам. падполля па разгортванню партыз. руху на акупіраванай ням.-фаш. захопнікамі тэр. рэспублікі. У дырэктыве падкрэслівалася неабходнасць стварэння праціўніку нязносных умоў, праследавання і знішчэння яго на кожным кроку, зрыву ўсіх мерапрыемстваў фаш. улад. ЦК КП(б)Б патрабаваў ствараць ў раёнах і сёлах падп. партячэйкі, гал. мэта якіх — мабілізацыя працоўных Беларусі на бязлітасную барацьбу з ворагам. Для гэтага ўсім камуністам і камсамольцам, здольным насіць зброю, рэкамендавалася заставацца на занятай ворагам тэрыторыі. Уся тэр. рэспублікі павінна быць пакрыта густой сеткай партыз. атрадаў. Перад партызанамі ставіліся задачы па знішчэнню ў тыле ворага ўсялякай сувязі, арганізацыі крушэння цягнікоў, узрываў мастоў, пашкоджання дарог. Дырэктыва падкрэслівала, што партыз. барацьба павінна насіць баявы, наступальны характар, не чакаць ворага, шукаць яго і знішчаць, не даючы спакою ні днём, ні ноччу. Сыграла вял. ролю ў арганізацыі ўсенар. партыз. руху на Беларусі.



А. І. Дыдышка.

*У. І. Лемяшонак.*



**ЕЗЯРЫ́ШЧА,** гар. пасёлак у Гарадоцкім р-не, на беразе воз. Езярышча. За 41 км на ПнЗ ад Гарадка, чыг. станцыя на лініі Віцебск — Невель, на аўтадарозе Віцебск — Невель. У 1935—58 цэнтр Мехаўскага р-на. 25.6.1941 у Е. створаны знішчальны батальён (107 чал.), які вёў барацьбу з фаш. лазутчыкамі і разведчыкамі да акупацыі раёна. Захоплена ням.-фаш. войскамі 17.7.1941. За час акупацыі ў Е. і раёне гітлераўцы знішчылі 2974 чал. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падп. Мехаўскія райкомы КП(б)Б (17. 7—15.10.1941; 9.6.1942—12.11.1943) і ЛКСМБ (17.7—15.10.1941; 15.4. 1942—1.12.1943), партыз. брыгады 2-я Бел. імя Панамарэнкі, 4-я Бел. і імя Чырванасцяжнага Ленінскага камсамола, партыз. атрады Я. М. Дзюрбы, Іванова — Я. Р. Нароенкі (гл. адпаведныя артыкулы). У 1942 партызаны разграмілі фаш. гарнізон на ст. Езярышча (гл. *Езярышчанскі бой 1942).* Вызвалена 19.12.1943 часцямі 360-й стралк. дывізіі (ген.-маёр І. І. Чынаў) 4-й ударнай арміі ва

раўнікоў камсам.-маладзёжнага падполля і партыз. руху ў Віцебскай і Пінскай абл. Чл. КПСС з 1940. З кастр. 1941 партызан, у маі 1942— сак. 1943 камандзір атрада *партызанскай брыгады 2-й Беларускай імя П. К. Панамарэнкі.* З 3.6.1943 да 14.7.1944 сакратар *Пінскага падпольнага абкома ЛКСМБ.* З 1944 на камсам., парт., сав. і гасп. рабоце.

**ЕРАШО́Ў** Іван Міхайлавіч (26.9.1911, г. Лепель —8.5.1948), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1933. У Чырв. Арміі з 1933. Скончыў Сталінградскае васн. авіяц. вучылішча (1936), Ваен.-паветр. акадэмію (1943). На фронце з мая 1943. Камандзір штурмавога авіяпалка маёр Е. удзельнік Курскай бітвы, вызвалення Украіны. З 5.7 да 2.8.1943 група штурмавікоў на чале з Е. знішчыла і пашкодзіла 150 аўтамашын, 15 танкаў, 5 батарэй палявой артылерыі, 4 эшалоны, 40 самалётаў на аэрадромах, збіла 10 самалётаў ворага, 4 з іх збіў Е. Да снеж. 1943 зрабіў 94 баявыя вылеты. У адным з баёў самалёт быў збіты, паранены Е. трапіў у палон, уцёк і 3 месяцы прабіраўся да сваіх. Страціўшы нагу, з пратэзам лятаў на баявыя заданні. Пасля вайны ў Сав. Арміі. Яго імя прысвоена сярэдняй школе № 2 г. Лепель.

**ЕРАШЭ́НКА** Віктар Іванавіч (9.3. 1921, Еўпаторыя —6.12.1980), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1946. Беларус. Скончыў Ваен.-паветр. акадэмію (1952). Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. З чэрв. 1941 на Паўн.-Зах., Волхаўскім і 1-м Укр. франтах. Нам. камандзіра палка, маёр Е. зрабіў 216 баявых вылетаў, з іх 87 на разведку тылоў праціўніка. Яго экіпаж у 20 паветр. баях збіў 15 варожых самалётаў, з групамі, якія ён вёў, знішчыў 259 аўтамашын, 12 танкаў, 14 складоў, 67 гармат, 9 чыг. эшалонаў, 120 вагонаў, 3 пераправы, 2 з-ды, 22 зенітныя ўстаноўкі. Да 1961 у Сав. Арміі, палкоўнік. Да 1977 у грамадз. авіяцыі.

**ЕРМАЛАВІЦКІ БОЙ 1943**, бой паміж партызанамі атрадаў 113-га (гл. *Партызанскі полк 113-ы*), 121-га (гл. ў арт. *Партызанскі полк 121-й імя А. М. Касаева*), 61-га (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 61-я*) і ням.-фаш. акупантамі ў в. Ермалавічы Бялыніцкага р-на 28—29.10.1943.

Гітлераўскі гарнізон у в. Ермалавічы (каля 180 салдат і афіцэраў) з'яўляўся вузлавым у сістэме ням.-фаш. гарнізонаў, якія забяспечвалі рух ням. фаш. войск на шашы Магілёў — Бялынічы, ажыццяўлялі карныя аперацыі супраць партызан і мірнага насельніцтва ў Бялыніцкім і Магілёўскім р-нах. Аперацыя па разгрому гарнізона распрацавана і праводзілася пад кіраўніцтвам *Магілёўскай ваенна-аператыўнай групы* (раённай). У падрыхтоўцы аперацыі партызанам аказвалі дапамогу падпольшчыкі і партыз. сувязныя.

Вечарам 28 кастр. партыз. акружылі в. Ермалавічы і ўварваліся ў гарнізон. Гітлераўцы, якія не паспелі арганізаваць абарону, сталі разбягацца і хавацца, партызаны з дапамогай мясцовых жыхароў іх вылоўлівалі. У выніку бою партызаны знішчылі 70 гітлераўцаў, 2 узялі ў палон, захапілі вял. колькасць боепрыпасаў, зброі і амуніцыі. У баі загінулі 2 партызаны. *У. С. Пасэ.*

**ЕРМАШКЕ́ВІЧ** Барыс Кірыкавіч (1.5. 1907, в. Рыскоў Рагачоўскага р-на — 22.2.1982), ген.-лейт. (1966). Чл. КПСС з 1940. Скончыў Ваен. акадэмію Генштаба (1948). У вайну на Зах., 2-м Бел. франтах: нач. аддзялення, аддзела, нам. нач. штаба арміі, нам. нач. аддзела штаба фронту. Удзельнік абароны Масквы, вызвалення Польшчы, баёў ва Усх. Прусіі. У 1945—55 на адказных пасадах у Сав. Арміі. З 1955 у цэнтр. апараце Міністэрства абароны СССР.

**ЁСЬКАВА**, вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1 км на ПдЗ ад в. Каханавічы. Перад вайной у ёй жыло 80 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі «*Зімовае чараўніцтва*», фашысты загубілі 28 жыхароў, вёску (22 двары) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1982 на месцы вёскі насыпаны курган, на яго вяршыні настаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.



**ЖА́БІНКА**, горад, цэнтр Жабінкаўскага р-на, пры ўпадзенні р. Жабінкі ў р. Мухавец. За 30 км на ПнУ ад Брэста, чыг. вузел (лініі на Брэст, Лунінец, Баранавічы), аўтадарогамі звязана з Кобрынам, Брэстам, Камянцом. У пачатку вайны пад Ж. вялі жорсткія баі войскі 14-га механіз. і 28-га стралк. карпусоў 4-й арміі Зах. фронту. 23.6.1941 у 6 гадз раніцы яны нанеслі з рубяжа Камянец — Ж.— Вял. Радванічы контрудар па праціўніку на брэсцкім напрамку, у выніку якога вораг быў адкінуты на некалькі кіламетраў. Але пад націскам праціўніка вымушаны былі з баямі адысці. 23.6.1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў Ж. і раёне знішчылі 1764 сав. грамадзян. У Ж. і на тэр. раёна дзейнічалі *Брэсцка-Жабінкаўскі падпольны міжрайком КП(б)Б*, Жабінкаўскі РК ЛКСМБ (1.11.1943—20.7. 1944), *партызанская брыгада імя І. В. Сталіна.* Вызвалена 18.7.1944 войскамі 20-й стралк. дывізіі (палк. І. Р. Несцярэнка) 28-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе *Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944.* У Ж. брацкія магілы сав. воінаў і партызан, на якіх пастаўлены помнікі; помнікі ахвярам фашызму, на месцы расстрэлу сав. актывістаў, землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.
*Н. У. Капранава.*



І. М. Жагранкоў. А. С. Жадаў.

**ЖА́БЧЫЦЫ**, вёска ў Пінскім р-не, за 11 км на З ад Пінска, за 5 км ад чыг. ст. Малатковічы (на лініі Брэст — Гомель), аўтадарогай звязаны з Пінскам. У 1940—55 цэнтр Жабчыцкага р-на. 2.7.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія забілі ў Ж. і раёне 428 чал. У райцэнтры і раёне дзейнічалі Жабчыцкія падп. райкомы КП(б)Б (1.9.1943—30.3.1944) і ЛКСМБ (чэрв. 1943—30.3.1944), партыз. брыгады Пінская і імя Молатава (гл. адпаведныя артыкулы). Вызвалены ў ноч на 16.7.1944 воінамі 20-й стралк. дывізіі (палк. І. Р. Несцярэнка) 20 га стралк. корпуса 28-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе *Беларускай аперацыі 1944.* *Т. І. Павалíхіна.*

**ЖАГРАНКО́Ў** Іван Міхайлавіч (10.11. 1923, в. Паловы Асташкаўскага р-на Калінінскай вобл.— 3.7.1944), Герой Сав. Саюза (1945). На фронце з 1942. Камандзір стралк. аддзялення сяржант Ж. у складзе войск 1-га Прыбалт. фронту вызначыўся пры вызваленні Віцебскай вобл.: 22.6.1944 у баі за в. Арахі Сіроцінскага р-на; 24.6. 1944 пры фарсіраванні Зах. Дзвіны; 3.7.1944 у баі за в. Траецкае Ветрынскага р-на са звязкай гранат кінуўся пад варожы танк, падарваў яго і загінуў сам. Пахаваны ў г. п. Ветрына Полацкага р-на ў брацкай магіле сав. воінаў і партызан.

**ЖА́ДАЎ** Аляксей Сямёнавіч (30.3. 1903, с. Нікольскае, Свярдлоўскі р-н Арлоўскай вобл.— 10.11.1977), Герой Сав. Саюза (1945), ген. арміі (1955). Чл. КПСС з 1921. У Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1934), Вышэйшыя акадэмічныя курсы пры Ваен. акадэміі Генштаба

(1950). З чэрв. 1941 на Зах. фронце — камандуючы 4-м паветрана-дэсантным корпусам, які вёў абарончыя баі на рубяжы Бярэзіна — Сож. Начальнік штаба 3-й арміі на Цэнтр. і Бранскім франтах (гл. *Маскоўская бітва 1941—42).* У кастр. 1942— маі 1945 камандуючы 66-й (з крас. 1943 5-я гвардз.) арміяй, якая ўдзельнічала ў *Курскай бітве 1943*, у *бітве за Днепро 1943*, вызваленні Украіны, у Львоўска-Сандамірскай, Вісла-Одэрскай, Берлінскай і Пражскай аперацыях. Пасля вайны на адказных пасадах у Сав. Арміі. Дэп. ВС СССР у 1946—50. Аўтар кн. «Чатыры гады вайны» (1978).


П. Е. Жгіроў. П. І. Жданаў.

**ЖАЛАБО́ЎШЧЫНА,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на Пд ад в. Мотужы Сенькаўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 49 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі «*Зімовае чараўніцтва*», фашысты загубілі 36 жыхароў, вёску (12 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1975 на месцы вёскі насыпаны курган, на яго вяршыні пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ЖАЛУДО́К,** гар. пасёлак у Шчучынскім р-не. За 22 км на У ад Шчучына, за 7 км ад чыг. ст. Скрыбаўцы на лініі Масты — Ліда, аўтадарогамі звязаны з аўтамагістралямі Гродна — Ліда і Слонім — Ліда. У 1940—62 цэнтр Жалудоцкага р-на. 27.6.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, часткова разбураны. 9.5. 1942 гітлераўцы расстралялі тут 2 тыс. сав. грамадзян. На тэр. раёна дзейнічалі Жалудоцкія падп. райкомы КП(б)Б (10.12.1943—15.7.1944) і ЛКСМБ (1.7.1943—15.7.1944), партыз. брыгады імя Варашылава, Ленінская, партыз. група «Заходнія» (гл. адпаведныя артыкулы). Вызвалены 12.7.1944 часцямі 199-й стралк. дывізіі (палк. В. Я. Паяраў) 70-га стралк. корпуса 50-й арміі 2-га Бел. фронту ў ходзе *Беластоцкай аперацыі 1944*. У Ж. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі. *М. І. Камінскі.*

**ЖАРНАСЕ́КІ,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 5 км на ПнУ ад в. Вознава Сар'янскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 47 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі «*Зімовае чараўніцтва*», фашысты загубілі 38 жыхароў, вёску (8 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1982 на месцы вёскі насыпаны курган, на яго вяршыні пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ЖАЎНЕ́РКА** Анастасія Парфёнаўна (н. 17.10.1916, в. Дубоўка Полацкага р-на), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсам.-маладзёжнага падполля і партыз. руху на тэр. Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1942. Скончыла Віцебскі настаўніцкі ін-т (1940), ВПШ пры ЦК КПСС (1959). З сак. 1942 камсам. арганізатар, з ліп. 1943 да 26.6.1944 сакратар *Віцебскага падпольнага абкома ЛКСМБ*. У 1944—73 на парт., сав. і прафс. рабоце.

**ЖГІРО́Ў** Піліп Ерафеевіч (н. 11.11. 1911, в. Гута Рагачоўскага р-на), Герой Сав. Саюза (1944), ген.-маёр (1959). Чл. КПСС з 1941. Скончыў васн. акадэміі імя Фрунзе (1947), Генштаба (1955). Удзельнік баёў на р. Халхін-Гол у 1939. З 1942 на Сталінградскім, Данскім, Бранскім, Цэнтр. і 1-м Бел. франтах. Нач. штаба стралк. палка маёр Ж. вызначыўся пры вызваленні Камарынскага р-на. 28.9.1943, каардынуючы ўзаемадзеянне пяхоты і артылерыі, забяспечыў паспяховае наступленне. Полк пад агнём праціўніка фарсіраваў Дняпро, выбіў ворага з траншэй, прасунуўся на 6 км і стварыў плацдарм, на які пераправіліся інш. вайсковыя часці. Да 1963 у Сав. Арміі.

**ЖДА́НАЎ** Мікалай Мікалаевіч (1.10. 1902, г. п. Алавяная Чыцінскай вобл.—21.4.1966), ген.-палк. артылерыі (1955). Канд. ваен. навук, дацэнт. Беларус. Чл. КПСС з 1928. У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Арт. акадэмію (1937). З 1938 выкладчык, нач. кафедры ваен. акадэміі. У Айч. вайну на Ленінградскім фронце: камандзір палка, нач. штаба, камандуючы артылерыяй арміі, камандзір арт. корпуса. У 1953—55 нач. васн. акадэміі. У 1955—65 у цэнтр. апараце Мін-ва абароны СССР.

**ЖДА́НАЎ** Павел Ільіч (16.1.1903, г. Слонім — 30.8.1986), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1955. У Чырв. Арміі з 1925. Скончыў курсы пры Васн. акадэміі імя Фрунзе (1935), курсы «Выстрал» (1942). З 1941 на Зах., Бранскім, Цэнтр., 1-м Укр. франтах. Удзельнік Курскай бітвы, вызвалення Арлоўскай вобл., Украіны. Камандзір стралк. палка падпалк. Ж. вызначыўся пры фарсіраванні Дзясны на Пд ад Чарнігава, Днепра на Пн ад Кіева ў вер. 1943: полк разам з партызанамі фарсіраваў Прыпяць і вызваліў ст. Янаў, сёлы Нагорцы і Карпілаўка Чарнобыльскага р-на Кіеўскай вобл. Пасля вайны да 1957 на гасп. рабоце. Яго імем названы вуліцы ў гарадах Жодзіна, Слонім.

**ЖЛО́БІН,** горад, цэнтр Жлобінскага р-на, прыстань на Дняпры. За 93 км на ПнЗ ад Гомеля, вузел чыг. ліній на Мінск, Гомель, Магілёў, Калінкавічы, на аўтадарозе Гомель — Бабруйск. 19 тыс. жыхароў у 1939. Акупіраваны 3.7.1941. Вызвалены 13.7.1941 воінамі 154-й стралк. дывізіі (палк. Я. С. Факанаў) 63-га стралк. корпуса (камкор Л. Р. *Пятроўскі*) 21-й арміі Зах. фронту ў ходзе *Смаленскай бітвы 1941*. У выніку контрудара 63-й стралк. корпус адкінуў праціўніка на З больш як на 30 км, вызваліў Рагачоў і Ж. Больш чым на месяц было спынена наступленне захопнікаў на Гомельскім напрамку (гл. *Рагачоўска-Жлобінская аперацыя 1941*). У ліп.— жн. 1941 здзейсніў шэраг смелых аперацый Жлобінскі знішчальны батальён (каля 170 байцоў). 14.8.1941 акупіраваны ў другі раз ням.-фаш. захопнікамі, разбураны. Акупанты толькі ў чэрв. 1942 знішчылі ў Ж. 1200 чал., усяго за час акупацыі ў Ж. і раёне — 3091 чал. У горадзе і раёне дзейнічалі *Жлобінскае партыйна-камсамольскае падполле*, *Жлобінскі падпольны міжрайком КП(б)Б* і Жлобінскі падп. РК КП(б)Б (май — 25.11.1943), *Жлобінскі падпольны міжрайком ЛКСМБ* і Жлобінскі падп. РК ЛКСМБ (чэрв.— кастр. 1942; май — 25.11.1943), партыз. брыгады 8-я Рагачоўская, 10-я Журавіцкая, 1-я Буда-Кашалёўская, імя Панамарэнкі, «Жалязняк», імя Чапаева, 255-ы полк, асобныя партыз. атрады імя Катоўскага і 108-ы імя Катоўскага (гл. адпаведныя артыкулы); выдавалася падп. газ. *«Шлях сацыялізма»*. Вызвалены 26.6.1944 воінамі 115-га УРа (ген.-маёр Ф. П. Пічугін) 48-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе *Бабруйскай аперацыі 1944*. З вайсковым часцям і злучэнням нададзены ганаровыя найменні «Жлобінскіх» (гл. *Жлобінскія вайсковыя злучэнні і часці*). У Ж. на вайсковых могілках, дзе пахаваны сав. воіны і партызаны, загінуўшыя пры вызваленні горада, і на магіле ахвяр фашызму (за 1 км ад Ж.) пастаўлены помнікі; помнік у гонар воінаў 63-га стралк. корпуса.

*У. М. Якубоўскі.*

**ЖЛО́БІНСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала ў Жлобіне і Жлобінскім р-не са жн. 1941 да ліст. 1943 пад кіраўніцтвам *Гомельскага падпольнага абкома КП(б)Б, Гомельскага падпольнага абкома ЛКСМБ*, з кастр. 1942 і Жлобінскіх падп. міжрайкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ. Аб'ядноўвала

з 1960 у БДУ. Аўтар манаграфій па гісторыі КПБ.

**ЖО́ЛУДЗЕЎ** Віктар Рыгоравіч (22.3.1905, г. Угліч Яраслаўскай вобл.— 21.7.1944), ген.-маёр (1942), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1942. У Чырв. Арміі з 1921. Вучыўся ў Ваен. акадэміі імя Фрунзе. З 1941 на Паўд.-Зах., Данскім, Цэнтр., Бранскім, 1-м Бел. франтах. Удзельнік Сталінградскай і Курскай бітваў, вызвалення Беларусі. 24.6.1944 стралк. корпус пад яго камандаваннем фарсіраваў р. Друць у Рагачоўскім р-не, прарваў абарону ворага, перакрыў шашу Магілёў — Бабруйск, фарсіраваў р. Ольса, авалодаў г. п. Клічаў, пераправіўся цераз Бярэзіну і 3.7.1944 удзельнічаў у вызваленні Мінска. Загінуў у баі. Пахаваны ў г. Ваўкавыск, дзе яго імем названа вуліца.

**ЖО́ЛУДЗЕЎ** Навум Ільіч (13.1.1922, Гомель —9.12.1985), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1944. Скончыў Мінскі юрыдычны ін-т (1950). На фронце з лют. 1942. Удзельнік Сталінградскай і Курскай бітваў, вызвалення Украіны, Румыніі. Камандзір мінамётнага разліку мал. сяржант Ж. вызначыўся ў кастр. 1943 пры фарсіраванні Дняпра на Пд ад Краменчуга. Мінамётны разлік заглушыў 3 агнявыя кропкі, знішчыў шмат жывой сілы праціўніка. Да 1970 у Сав. Арміі, падпалк. юстыцыі, потым юрысконсульт.

**ЖО́ХАЎ** Іван Васілевіч (н. 14.5.1914, в. Кульнева Малаяраславецкага р-на Калужскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай і Брэсцкай абл. Чл. КПСС з 1941. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. З кастр. 1941 камісар партыз. атрада «Сын» у Маскоўскай вобл., з студз. 1942 камісар партыз. атрада знішчальнага мотастралк. палка Упраўлення НКУС Масквы і Маскоўскай вобл. З жн. 1942 на Беларусі: камандзір партыз. ўзвода, з кастр. 1942 камандзір, камісар атрада, у сак. 1943— лют. 1944 камісар, адначасова ў ліст. 1943— сак. 1944 камандзір *партызанскай брыгады «За Радзіму» імя А. К. Флегантава*, чл. Пухавіцкага, Маларыцкага падп. райкомаў КП(б)Б. З 1944 на парт. і гасп. рабоце.

**ЖУДРО́** Васіль Сцяпанавіч (1917, в. Карані Светлагорскага р-на — 20.4.1942), адзін з кіраўнікоў *Мінскага партыйнага падполля*.Чл. КПСС. У 1941 вучыўся ў Мінску на курсах. У пач. акупацыі горада ўстанавіў сувязь з падп. парт. групай у раёне Камароўкі, з партызн. групай «Дзядзькі Васі» (В. Т. Варанянскага). З камісарам гэтай групы А. Макаранкам арганізаваў вывад з Мінска да партызан людзей, адпраўку зброі, боепрыпасаў. Са снеж. 1941 чл. *Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б*. Разам з таварышамі знішчаў фашыстаў на вуліцах Мінска, на аўтамагістралях каля горада расстрэльваў з засад варожыя аўтамашыны. Цяжка паранены 17.4.1942, памёр ад ран. У Мінску яго імем названа вуліца.

**ЖУЙКО́Ў** Мікалай Пятровіч (снеж. 1922, пас. Ялоўскі Ярскага р-на Удмурцкай АССР — 1.3.1944), удзельнік баёў на Беларусі. Чл. КПСС з 1943. На фронце з крас. 1943. Камандзір асобнага кулямётна-арт. батальёна лейтэнант Ж. вызначыўся 1.3.1944 у баі за вышыню каля в. Мормаль Жлобінскага р-на: у вырашаючы момант бою закрыў сваім целам амбразуру варожага дзота. Калі праціўнік зноў адкрыў агонь, ст. сяржант Ф. Н. Мазілін паўтарыў подзвіг свайго камандзіра, і батальён авалодаў вышынёй. Імем Ж. названа вуліца ў в. Мормаль, дзе яму і Мазіліну пастаўлены помнік, на месцы іх подзвіга — мемар. знак.

**ЖУК** Аляксандр Апанасавіч (31.12.1918, в. Вёска Салігорскага р-на —18.7.1983), Герой Сав. Саюза (1945), ген.-маёр (1957). Чл. КПСС з 1945. У Чырв. Арміі з 1934. Скончыў Мінскае ваен. пях. вучылішча (1937), курсы «Выстрал» (1942), Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1948). З сак. 1942 на Зах., Калінінскім, Данскім, Бранскім, Цэнтр., 1-м Укр., 1-м і 2-м Бел. франтах. Камандзір стралк. палка падпалкоўнік Ж. вызначыўся ў крас. 1945 пры фарсіраванні Одэра і ў баях за пашырэнне плацдарма на левым беразе ракі. Да 1959 у Сав. Арм
Працаваў ў НДІ. Яго імем назва
вуліца ў в. Вёска.

**ЖУ́КАЎ** Васіль Пятровіч (1922, в. Бя
розаўка Бялёўскага р-на Тульск
вобл.— 12.7.1944), Герой Сав. Саю
(1945). Чл. ВЛКСМ. У Чырв. Ар
з ліст. 1941. На фронце з мая 19
Камандзір кулямётнага разлі
ст. сяржант Ж. вызначыўся пры в
зваленні Беластоцкай вобл. 12.7.19
у баі за г. Масты агнём з станкова

Дз. П. Жмуроўскі. В. Р. Жолудзеў. Н. І. Жолудзеў. А. А. Жук. В. П. Жукаў. Г. К. Жукаў.



кулямёта адбіў 3 контратакі, знішчы
некалькі дзесяткаў гітлераўцаў, а
рэзаў варожую пяхоту ад танкаў,
час чацвёртай гранатамі падбіў тан
пад другім загінуў сам. Пахаваны
Мастах, дзе яго імем названа вуліца

**ЖУ́КАЎ** Георгій Канстанцінаві
[1.12.1896, в. Стралкоўка Угодска
Заводскага (цяпер Жукаўскага) р-
Калужскай вобл.— 18.6.1974], Мар-
шал Сав. Саюза (1943), чатыры раз
Герой Сав. Саюза (1939, 1944, 1945
1956). Герой МНР (1969). Чл. КПС
з 1919. У арміі з 1915, у Чырв. Ар
з 1918. Удзельнік 1-й сусв. і грамадз
войнаў. Скончыў курсы вышэйша
камсаставу (1930). У 1938—39 нам.
камандуючага войскамі БВА. У 19
камандуючы армейскай групай войс
у аперацыі па разгрому японск
захопнікаў на р. Халхін-Гол. З 19
камандуючы войскамі Кіеўскай Асо-
бай ваен. акругі. У студз.— ліп. 194
нач. Генштаба — нам. наркома абаро-
ны СССР. З 23.6.1941 чл. Стаўкі ВГК
з жн. 1942 1-ы нам. наркома абарон
СССР і нам. Вярх. Галоўнакамандую-
чага; камандаваў Рэзервовым, Ленін
градскім, Зах., 1-м Укр., 1-м Бе
франтамі. Адзін з кіраўнікоў абароны
Ленінграда, Масквы і разгрому ням.
фаш. войск пад Масквой. Як пра
стаўнік Стаўкі каардынаваў дзеянн
франтоў у Сталінградскай бітве, у ча
прарыву блакады Ленінграда, бітва
пад Курскам і за Дняпро, 2-га і 1-
Бел. франтоў у *Беларускай аперац*
*1944*. Камандаваў 1-м Бел. фронт
пры ўзяцці Берліна. Па даручэнн
сав. ВГК з прадстаўнікамі ЗША
Вялікабрытаніі і Францыі 8.5.1945
Карлсхорсце (Берлін) прыняў капіт
ляцыю фаш. Германіі. 24.6.1945 пры
маў *Парад Перамогі* ў Маскве. Пас

вайны на адказных камандных пасадах у Сав. Арміі, у 1955—57 міністр абароны СССР. Канд. у чл. ЦК КПСС у 1941—46 і 1952—53, чл. ЦК КПСС у 1953—57; канд. у чл. і чл. Прэзідыума ЦК КПСС у 1956—57. Дэп. ВС СССР у 1941—58. Аўтар кн. «Успаміны і роздум» (т. 1—3. 9 выд. 1988). Урна з прахам Ж. ў Крамлёўскай сцяне. Бюст устаноўлены ў с. Жукава (былое с. Угодскі Завод). Яго імем названы Ваен. камандная акадэмія ППА, вуліцы ў многіх гарадах, у т. л. ў Мінску, Гомелі, Слуцку; у школе № 18 г. Баранавічы музей яго імя; у г. Слуцк на доме, дзе ён жыў у час службы на Беларусі, мемар. дошка; у вайну яго імя было прысвоена 2 партыз. брыгадам і 16 атрадам, якія дзейнічалі на Беларусі.

**ЖУ́КАЎ** Пётр Сяргеевіч (22.1.1921, в. Мікулічы Брагінскага р-на — 22.12.1967), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Кіеўскае пях. вучылішча (1941). З чэрв. 1941 на Паўд.-Зах., Паўн.-Каўказскім, Паўд., Цэнтр., 1-м Бел. франтах. Удзельнік вызвалення Новарасійска, Тамані, Керчы. Вызначыўся ў час *Бабруйскай аперацыі 1944* на рубяжы р. Трэмля і Пціч у Гомельскай вобл. Стралковы батальён на чале з маёрам Ж. 25 чэрв. прарваў абарону праціўніка на З ад в. Пружынішчы Акцябрскага р-на, адрэзаў ворагу шлях да адступлення і знішчыў 60 гітлераўцаў. 26 чэрв. байцы батальёна пад жорсткім агнём пераадолелі 200-метровую паласу балота, штурмам авалодалі в. Любань, знішчылі каля 100 гітлераўцаў, адбілі контратаку і 27 чэрв. выйшлі да р. Пціч. Да 1953 у Сав. Арміі, маёр, пасля ў ДТСААФ, на гасп. рабоце. Яго імем названы вуліцы ў г. п. Брагін, в. Любань Акцябрскага р-на, сярэдняя школа ў в. Мікулічы.

**ЖУ́КАЎ** Сцяпан Іванавіч [н. 1.5.1923. в. Пушча (злілася з в. Пірагі) Расонскага р-на], Герой Сав. Саюза (1946). Чл. КПСС з 1950. Скончыў Віцебскі аэраклуб (1941), Чарнігаўскую ваен. школу пілотаў (1942). З жн. 1943 на Цэнтр. і 1-м Бел. франтах. Удзельнік Курскай бітвы, вызвалення Украіны, Беларусі, баёў у Германіі. Нам. камандзіра эскадрыллі штурмавога авіяпалка ст. лейтэнант Ж. зрабіў 121 баявы вылет на штурмоўку жывой сілы і баявой тэхнікі ворага, у т. л. 80 вылетаў на тэр. Беларусі. Да 1955 у Сав. Арміі, маёр, да 1967 працаваў у Доме афіцэраў у Курску.

**ЖУКО́ВІЧ** Павел Антонавіч (1904, г. Барысаў —15.6.1944), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Мінскай і Вілейскай абл. Чл. КПСС з 1930. З 1935 на прафс., парт. і гасп. рабоце. З 1939 заг. аддзела Чашніцкага, 1-ы сакратар Куранецкага райкомаў КП(б)Б. З жн. 1942 у тыле ворага. У кастр. 1942— ліп. 1943 кіраўнік *Барысаўскага падпольнага міжрайпартцэнтра,* з жн. 1943 чл. *Вілейскага падпольнага абкома КП(б)Б*, упаўнаважаны па Паўд.-Усх. зоне Вілейскай вобл. Загінуў. Яго імем названа вуліца ў г. Барысаў.


П. С. Жукаў. С. І. Жукаў. П. А. Жуковіч. Р. П. Жулега. С. Г. Жунін. Ц. С. Жучкоў.

**ЖУЛЕ́ГА** Рыгор Прохаравіч (1.1.1922, в. Старая Дуброва Акцябрскага р-на —22.6.1973), поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПСС з 1942. З 1941 на Карэльскім, 2-м Бел. франтах. Памочнік камандзіра ўзвода разведкі ст. сяржант Ж. вызначыўся ў баях у Карэліі, Мурманскай вобл. і на тэр. Германіі. 11.6.1944 з групай воінаў уварваўся ў траншэі ворага, знішчыў 4 гітлераўцаў і захапіў «языка»; 23.10.1944 у час контратакі праціўніка арганізаваў абарону штаба і выратаваў сцяг палка; 7.3.1945 у баі за ст. Пільн (Памеранія) з групай разведчыкаў знішчыў 2 бронетранспарцёры і 22 гітлераўцаў, 4 узяў у палон. Пасля вайны жыў і працаваў у пас. Крылова Калінінградскай вобл.

**ЖУ́ЛІКАЎ** Пётр Георгіевіч (падп. псеўданім П я т р о ў; вер. 1910, с. Крэпасць Узень Вольскага р-на Саратаўскай вобл.— 1943), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў *Брэсцкага партыйнага падполля.* Чл. КПСС з 1938. Вучыўся ў Камуніст. ун-це ў Маскве (1932—34). З 1939 на парт. рабоце на Беларусі, са студз. 1941 сакратар парт. к-та Брэсцкага чыг. вузла, чл. Брэсцкага гаркома КП(б)Б. Апынуўшыся ў акупіраваным Брэсце, устанавіў сувязь з камуністамі, у жн. 1941 стаў ініцыятарам стварэння гар. кіруючага парт. цэнтра, які аб'ядноўваў 7 падп. парт. арг-цый (125 чал.), устанавіў сувязь з *Брэсцкай гарадской антыфашысцкай арганізацыяй* і *Брэсцкім камсамольска-маладзёжным падполлем* і накіроўваў іх дзейнасць. Натрапіўшы на след парт. падполля, акупанты двойчы арыштоўвалі Ж., але за адсутнасцю доказаў адпускалі. 10.10.1943 па даносу правакатара схоплены і закатаваны ў турме. У памяць аб ім у Брэсце на будынку вакзала ст. Брэст-Цэнтральны ў 1964 устаноўлена мемар. дошка.

**ЖУ́НІН** Сяргей Георгіевіч (18.8.1906, с. Мядзведзіцкае Кімрскага р-на Калінінскай вобл.— 27.1.1977), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай і Брэсцкай абл. Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1943. У Чырв. Арміі з 1928. З чэрв. 1941 на Зах. фронце, нам. камандзіра танк. палка, удзельнік абароны Беластока, Гродна, Ваўкавыска, Слоніма. З ліп. 1941 у партызанах: арганізатар атрадаў у Круглянскім і Шклоўскім р-нах, камандзір групы, у крас. 1942 — сак. 1943 атрада «Сяргея», адначасова ў кастр. 1942 — жн. 1943 *партызанскай брыгады 8-й Круглянскай*, у жн.—снеж. 1943 *Круглянскай ваенна-аператыўнай групы,* з снеж. 1943 *партызанскай брыгады 8-й*, якая зрабіла рэйд у Брэсцкую вобл. У 1944—50 на сав. рабоце ў Брэсце і ў Мінску. Аўтар кн. «Ад Дняпра да Буга» (1974). Яго імем названа вуліца ў г. п. Круглае. У Мінскай сярэдняй школе № 100 музей Ж.

**ЖУРА́ВІЧЫ,** вёска ў Рагачоўскім р-не, на р. Гутлянка. За 42 км на ПнУ ад Рагачова, аўтадарогамі звязаны з Чачэрскам, Рагачовам і Слаўгарадам. У 1935—56 цэнтр Журавіцкага р-на. 14.8.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў Ж. і раёне 2477 чал. У Ж. і раёне дзейнічалі Журавіцкія падп. райкомы КП(б)Б (8.3—2.10.1943) і ЛКСМБ (1.4—5.10. 1943), партыз. брыгады 8-я Рагачоў-

ская, 10-я Журавіцкая, асобныя партыз. атрады 108-ы імя Катоўскага, 48-ы Прапойскі (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«Партызан Гомельщины»*. Вызвалены 25.11.1943 воінамі 269-й стралк. дывізіі (ген.-маёр А. Ф. Кубасаў) 3-й арміі Бел. фронту ў ходзе *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943*. У Ж. брацкая магіла партызан, магіла ахвяр фашызму, на якіх пастаўлены помнікі; помнік землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. *В. В. Гетаў.*


У. Р. Жыгуноў. Я. А. Жылянін.

**ЖУЧКО́Ў** Ціхан Свірыдавіч (4.7.1922, в. Бахацец Чавускага р-на— 9.3. 1987), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС с 1944. Скончыў Ейскае ваенна-марское авіяц. вучылішча (1942). На фронце з вер. 1942. Лётчык-знішчальнік ВПС Балтыйскага флоту ст. лейтэнант Ж. вызначыўся ў час прарыву блакады Ленінграда, вызвалення Ленінградской вобл. і Прыбалт. рэспублік. Зрабіў 257 баявых вылетаў, з іх 85 на фотаразведку ваен. аб'ектаў праціўніка, правёў 37 паветр. баёў, асабіста збіў 11 самалётаў праціўніка, у групе — 12. Да 1960 у Сав. Арміі, падпалкоўнік, пасля ў Міністэрстве грамадз. авіяцыі. Яго імем названа вуліца ў г. Чавусы.

**ЖЫГАР** Аляксандр Апанасавіч (15.5. 1915, в. Вял. Сяло Петрыкаўскага р-на — 24.10.1971), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Палескай вобл. Чл. КПСС з 1939. З 1932 на гасп. рабоце, з 1940 дырэктар Капаткевіцкай МТС. У пачатку Айч. вайны пакінуты ў тыле ворага: з жн. 1941 камісар партыз. атрада (у кастр. 1941 раздзяліўся на групы, у студз. 1942 аднаўлены), камандзір групы, з лют. 1942 камандзір атрада, у студз. 1943— сак. 1944 *партызанскай брыгады 125-й Капаткевіцкай*, адначасова чл. Капаткевіцкага падп. РК КП(б)Б, з сак. 1944 у распараджэнні БШПР. З 1944 на сав. і адм.-гасп. рабоце. Яго імем названа вуліца ў Лепелі.

**ЖЫГУНО́Ў** Уладзімір Раманавіч [н. 9.4.1920, в. Нашковічы (злілася з в. Шамаўшчына) Мсціслаўскага р-на], Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1945. Скончыў Адэскую ваен. авіяц. школу пілотаў (1942), Ваен.-паветр. акадэмію (1955). З ліп. 1943 на Сцяпным, 2-м і 1-м Укр. франтах, лётчык-штурмавік. Удзельнік баёў пад Курскам, Харкавам, Палтавай, Крывым Рогам, Кіраваградам, ліквідацыі корсунь-шаўчэнкаўскай групоўкі ворага, Яска-Кішынёўскай аперацыі 1944, вызвалення Польшчы, Румыніі, Чэхаславакіі, баёў на тэр. Германіі, за Берлін. Камандзір звяна штурмавога авіяпалка, зрабіў 194 баявыя вылеты, збіў 2 самалёты, знішчыў 9 варожых танкаў, 28 аўтамашын, 3 склады, эшалон, заглушыў агонь 3 арт. батарэй. Асабліва вызначыўся ў час ліквідацыі бродскай варожай групоўкі і пры пашырэнні Сандамірскага плацдарма. Да 1960 у Сав. Арміі, палкоўнік. Працуе ў НДІ.

**ЖЫ́ЖЫК** Іван Кліменцьевіч (чэрв. 1910, в. Навасёлкі Капыльскага р-на — 12.8.1943), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1932. З 1929 на культ.-асв., камсамольскай, гасп., праф. і парт. рабоце. З жн. 1941 па заданню ЦК КП(б)Б у тыле ворага, у ліп.— снеж. 1942 камісар *партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава*, адначасова ў жн. 1942 — сак. 1943 чл. *Слуцкага падпольнага міжрайкома КП(б)Б*, у крас.— маі 1943 сакратар, з мая 1943 чл. Капыльскага падп. РК КП(б)Б. Загінуў у баі. Яго імем названа вуліца ў в. Навасёлкі.

**ЖЫЛЯ́НІН** Якім Аляксандравіч (22.8. 1903, в. Гайна Лагойскага р-на — 30.8.1979), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1928. Перад вайной сакратар Магілёўскага абкома КП(б)Б. З ліп. 1941 упаўнаважаны Эвакуацыйнага савета пры СНК СССР, з 23.4.1942 сакратар *Віцебскага падпольнага абкома КП(б)Б*. У 1944—46 1-ы сакратар Полацкага абкома КП(б)Б, потым нам. сакратара і заг. аддзела ЦК КП(б)Б. У 1949—59 старшыня Магілёўскага аблвыканкома. У 1960—66 чл. Партакамісіі пры ЦК КПБ. Чл. ЦК КПБ у 1940—60. Дэп. ВС СССР у 1950—54, ВС БССР у 1938—63.

**ЖЫ́ТКАВІЦКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з сак. да ліст. 1942 у г. п. Жыткавічы. Аб'ядноўвала 20 чал., у т. л. 11 камуністаў і камсамольцаў. Кіраўнік Е. Я. Гораў. Трымала сувязь с партыз. групай У. І. Глушчэні і дыверсійна-разведвальнай групай.

Падпольшчыкі вялі агітацыю сярод насельніцтва і салдат вайсковых фарміраванняў ворага, распаўсюджвалі лістоўкі і зводкі Саўінфармбюро, здабывалі для партызан бланкі ням. дакументаў, харчы, медыкаменты, паведамлялі аб руху воінскіх эшалонаў і ахове чыгункі, размяшчэнні войск праціўніка. Каля раз'езда Дзедаўка падарвалі воінскі эшалон, узарвалі склады каля раз'езда Брынёва з гаручазмазачнымі матэрыяламі, каля чыг. ст. Старушкі — з арт. снарадамі, у Жыткавічах — са зброяй, спалілі склад з сенам і некалькі будынкаў установ акупантаў, пусцілі пад адхон 6 эшалонаў ворага.

У барацьбе з акупантамі загінулі: І. К. Барабаш, І. Я. і Е. Я. Горавы, Ф. Дзяткоўскі, Л. П. Корж, Я. С. Мацвеявец, І. В. Мацюнін, С. Хомчанка, Р. А. Ціпкала, В. П. і М. Г. Ярмош. *В. С. Лазебнікаў.*

**ЖЫ́ТКАВІЧЫ**, горад, цэнтр Жыткавіцкага р-на. За 233 км на ПдЗ ад Гомеля, чыг. станцыя на лініі Калінкавічы — Лунінец. Звязаны з аўтамагістраллю Брэст — Гомель. У 1938—71 гар. пасёлак. 4,3 тыс. жыхароў у 1939. 20.8.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў Ж. і раёне 1384 чал. У горадзе і раёне дзейнічалі *Жыткавіцкае партыйна-камсамольскае падполле*, Жыткавіцкія падп. райкомы КП(б)Б (10.8. 1943—6.7.1944) і ЛКСМБ (1.7.1943—6.7.1944), партыз. брыгады 25-я імя Панамарэнкі, 50-я Жыткавіцкая, 123-я Акцябрская імя 25-годдзя БССР, 130-я Петрыкаўская, 225-я, асобны партыз. атрад П. А. Дудаля, партыз. спецатрад «Храбрацы» (гл. адпаведныя артыкулы). Вызвалены 6.7.1944 воінамі 23-й (палк. І. В. Басцееў) і 55-й (палк. К. М. Андрусенка) стралк. дывізій 89-га стралк. корпуса 61-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе *Беларускай аперацыі 1944*. У Ж. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, на якой пастаўлены помнік. *В. В. Гетаў.*

# З

**«ЗА НА́ШУ ПОБЕ́ДУ»**, газета, орган Снядоўскага падп. РК КП(б)Б Беластоцкай вобл. Вядомы 23 нумары за 21.12.1943—6.7.1944. Рэдактар М. І. Цяцерын.

**«ЗА ПОБЕ́ДУ»**, газета, заснавана ў 1939 пад наз. «Новы шлях». У час ням.-фаш. акупацыі орган Пастаўскага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 3 нумары (№ 1 і 2 за ліст. 1943, № 3 за студз. 1944) на рус. мове. Пасля вызвалення выдавалася пад наз. «Савецкі шлях», з 1962 «Звязда», орган Пастаўскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«ЗА РАДЗІ́МУ»**, газета, заснавана ў 1918 пад наз. «Известия Могилёвского Совета рабочих и солдатских депутатов». У час ням.-фаш. акупацыі орган *Магілёўскага падпольнага абкома КП(б)Б*. Вядома 39 нумароў за 23.3.1943—22.6.1944 на бел. мове. Рэдактары: А. А. Юшкевіч, А. В. Яблонскі (з мая 1943). Пасля вызвален-

гасны шлях». У час ням.-фаш. акупацыі орган Прапойскага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 2 нумары ад 12 і 25.9.1943 на рус. мове. Рэдактар В. Я. Гапееў. Пасля вызвалення выдавалася пад даваен. назвай, з 1965 «Ленінскае слова», орган Слаўгарадскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

С. А. Забагонскі. М. М. Завадоўскі. У. Г. Завадскі. В. Л. Зайцаў. І. Р. Зайцаў. І. С. Зайцаў.



**«ЗА СОВЕ́ТСКУЮ РО́ДИНУ»,** газета, заснавана ў 1931 пад наз. «За калектывізацыю». У час ням.-фаш. акупацыі орган Старадарожскага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 31 нумар за 18.4.1943—20.6.1944 на рус. мове. Назва № 1 за 18.4.1943 «Красный партизан». Рэдактар А. П. Спіцын. Пасля вызвалення выдавалася пад наз. «За Савецкую Радзіму», з 1967 «Поступ Кастрычніка», орган Старадарожскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«ЗА СОВЕ́ТСКУЮ РО́ДИНУ»,** газета, орган *партызанскай брыгады 1-й Антыфашысцкай*. Вядомы 3 нумары ад 16.10, 7.11.1943 і 1.1.1944.

**ЗААЗЕ́Р'Е,** вёска на тэр. Шумілінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 5 км на З ад в. Гульбішча Казянскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 50 чал. У сак. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 28 жыхароў, вёску (12 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1969 на месцы спаленай вёскі пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ЗАБАГО́НСКІ** Сямён Аляксандравіч (14.1.1910, в. Залучча Верхнядзвінскага р-на — 27.1.1955), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1944. З 1941 на Зах., Цэнтр., Варонежскім, 4-м Укр. франтах. Пам. камандзіра ўзвода сяржант З. вызначыўся пры вызваленні Кіеўскай вобл. У ноч на 24.9.1943 на чале групы разведчыкаў фарсіраваў Дняпро на Пн ад г. п. Ржышчаў, светлавымі сігналамі паказаў месца для прычальвання лодак і плытоў. Падраздзяленні палка паспяхова пераправіліся цераз раку. Удзельнічаў у баі за плацдарм, адбіцці контратак праціўніка. Пасля вайны працаваў у Томскай і Ленінградскай абл. У в. Залучча ў памяць аб З. пастаўлена стэла.

**ЗА́БАЛАЦЦЕ,** вёска на тэр. Ельскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на ПнУ ад в. Будкі Старавысокаўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 289 чал. 18.7.1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 167 жыхароў, вёску (76 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1975 на магіле ахвяр фашызму, пахаваных на месцы вёскі, пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ЗАБАРО́ЎЦЫ,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 4 км на ПнЗ ад в. Сар'я. 16.2.1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»*, фашысты загубілі 16 жыхароў, вёску (12 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1964 на месцы вёскі насыпаны курган, на яго вяршыні пастаўлена стэла.

**ЗАБО́Р'Е,** вёска на тэр. Полацкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 10 км на ПнУ ад в. Домнікі Гаранскага сельсавета. У чэрв. 1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 138 жыхароў, вёску спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1968 на месцы вёскі пастаўлены абеліск.

**ЗАБО́РСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ,** састаўная частка *Расонскага партыйна-камсамольскага падполля*. Дзейнічала з жн. 1941 да мая 1942. Кіраўнік У. В. Петрачэнка. Аб'ядноўвала 23 чал., 3 групы: у вёсках Лакці і Пакоціна — узначальвалі Я. А. Каган, А. І. Папляцева (Сафронава), Н. І. Папляцеева (Асадчанка); Аўсюкова і Забор'е — А. Дз. Цітоў і І. Ф. Лапатка; Баканіха і Шарстова — М. Ф. Максіменка. Да ліст. 1941 дзейнічала ў кантакце з *партызанскім атрадам імя В. П. Чкалава*.

Падпольшчыкі вялі разведку, збіралі зброю, дапамагалі атраду харчамі. На тайным складзе групы вёсак Пакоціна і Лакці меліся станковы і ручны кулямёты, больш як 20 вінтовак. Усе члены групы былі ўзброены. У вер. 1941 яны перадалі партызанам больш за 20 вінтовак, шмат боепрыпасаў; падпольшчыкі групы вёсак Аўсюкова і Забор'е перадалі партызанам 21 галаву буйной рагатай жывёлы і свіней, вял. колькасць хлеба і бульбы. Разам з партызанамі падпольшчыкі прымалі ўдзел у падрыве 72-метровага моста цераз р. Дрыса ў Краснаполлі, 6 мастоў на шашэйных дарогах, рабілі засады, спалілі будынак ням. камендатуры ў в. Забор'е, вынеслі радыёпрыёмнік і медыкаменты з Краснапольскай бальніцы. 19.9.1941 мінай, пастаўленай падпольшчыкамі в. Аўсюкова, падарвалі ням. аўтапрычэп. Выбухам знішчаны буйнакаліберная зенітная ўстаноўка, некалькі мінамётаў, шмат боепрыпасаў, забіта больш за 20 варожых салдат і афіцэраў. На міне, пастаўленай падпольшчыкамі в. Шарстова і Баканіха, 20.9.1941 падарвалася аўтамашына, знішчана больш дзесятка фашыстаў; адначасова М. Ф. Максіменка і І. С. Герасіменка абстралялі калону фашыстаў і знішчылі некалькі салдат і афіцэраў. Актыўнасцю ў барацьбе вызначыліся камсамольцы В. М., Г. М., Я. М. Варахобавы, І. Дз., М. С., Ф. К. Герасімовічы, Г. Ф. Данчанка, М. К. Іваноў, В. Б. Кузняцова (Валынцава), С. Ф. Лапатка, В. П. Мядзведзеў, Г. І. і В. І. Петрачэнкі, Т. І. Папляцеева, Дз. П. Сухарукаў. Вясной і летам 1942 амаль усе падпольшчыкі пайшлі ў партызаны.

У барацьбе з ням.-фаш. акупантамі загінулі: Ф. К. Герасімовіч, М. К. Іваноў, Я. А. Каган, С. Ф. Лапатка, І. Ф. і Ф. К. Максіменкі, В. П. Мядзведзеў, У. В. Петрачэнка. Дзейнасць падполля ўвекавечана ў *Расонскім музеі баявой садружнасці* рус., бел., латвійскіх і літоўскіх партызан.

*Л. А. Папкоўскі.*

**ЗАВАДО́ЎСКІ** Міхаіл Мікалаевіч (26.11.1900, с. Пчалінаўка Баброўскага р-на Варонежскай вобл.— 29.1.1960), ген.-лейт. (1944), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1928. У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны, вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. Скончыў кав. школу (1926), Вышэйшыя курсы пры Ваен. акадэміі Генштаба (1949). З 1941 на Калінінскім, Зах., 3-м Бел. франтах. Вызначыўся пры вызваленні Міншчыны. 30.6.1944 стралк. корпус пад яго камандаваннем пад варожым агнём фарсіраваў Бярэзіну, на захопленым плацдарме адбіў больш за 20 контр-

атак праціўніка; 1.7.1944 удзельнічаў у вызваленні г. Барысаў. У гэтых баях корпус знішчыў 30 гармат, 28 танкаў, 15 самаходных гармат, 40 мінамётаў, больш за 1000 гітлераўцаў. Удзельнічаў у вызваленні Орцы, Мінска, Літвы, у фарсіраванні Нёмана, баях за Кёнігсберг. Пасля вайны ў Сав. Арміі.

**ЗАВА́ДСКІ** Уладзімір Георгіевіч (н. 13.1.1919, Орша), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1940. Скончыў Энгельскае ваен. авіяц. вучылішча (1940), Харкаўскі інж.-эканамічны ін-т (1970). З чэрв. 1941 на Зах., Сцяшным, 2-м Укр. франтах у бамбардзіровачнай і разведвальнай авіяцыі. Удзельнік Маскоўскай, Курскай бітваў, вызвалення Украіны, Румыніі, Венгрыі, Аўстрыі, Чэхаславакіі. Зрабіў 152 баявыя вылеты, у т. л. 115 на разведку войска і глыбокіх тылоў ворага. Да 1956 у Сав. Арміі, маёр. Да 1985 працаваў на машынабудаўнічым з-дзе.

**ЗАВАРЫ́ЗГІН** Барыс Сяргеевіч (н. 11.3. 1921, Масква), Герой Сав. Саюза (1945), ген.-маёр авіяцыі (1975). Чл. КПСС з 1944. Скончыў Чкалаўскую ваен. авіяц. школу (1942), акадэміі Ваенна-паветр. (1951), Генштаба (1960). На фронце з сак. 1943. Памочнік камандзіра штурмавога авіяпалка ст. лейтэнант З. вызначыўся ў *Беларускай аперацыі 1944*. Удзельнік штурму глыбокаэшаланіраванай абароны праціўніка на рубяжы Віцебск — Орша, вызвалення Мінска, ліквідацыі *мінскага «катла»*. З 23.6 да 26.8.1944 знішчыў 2 танкі, 4 бронетранспарцёры, 23 аўтамашыны, 9 гармат, шмат інш. тэхнікі і жывой сілы праціўніка. Да 1982 у Сав. Арміі.

**ЗАГО́Р'Е**, вёска на тэр. Лагойскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на ПнЗ ад в. Лагаза. Перад вайной у ёй жыло 126 чал. У жн. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 81 жыхара, вёску (26 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ЗАГО́РЦЫ**, вёска на тэр. Полацкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на ПдЗ ад в. Шпакоўшчына. Перад вайной у ёй жылі 42 чал. У жн. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 24 жыхароў, вёску (13 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ЗАДО́БРЫЯ**, вёска на тэр. Гарадоцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на ПдЗ ад в. Азёркі Хмяльніцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 76 чал. У сак. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 30 жыхароў, вёску (23 двары) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ЗАДО́ЎБА**, вёска на тэр. Слуцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на Пд ад в. Жылін Брод Першамайскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 9 чал. 23.2.1943, у час карнай аперацыі *«Горнунг»*, фашысты загубілі 9 жыхароў, вёску (4 двары) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1975 на магіле ахвяр фашызму пастаўлены помнік. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ЗА́ЙЦАЎ** Веніямін Леанідавіч (24.4. 1923, в. Дабрышчава Камсамольскага р-на Іванаўскай вобл. — 20.7.1944), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. ВЛКСМ. На фронце з лют. 1942. Вызначыўся пры вызваленні Беларусі. Разведчык асобнай разведроты сяржант З. з байцамі 18.7.1944 разведаў агнявую сістэму пярэдняга краю абароны праціўніка ў раёне воз. Дрысвяты; 20.7.1944, прыкрываючы адыход разведчыкаў, знішчыў 5 фашыстаў, быў цяжка паранены. Калі гітлераўцы акружылі З., ён гранатай падарваў сябе і ворагаў.

**ЗА́ЙЦАЎ** Іван Рыгоравіч (22.10.1916, в. Хоцімск Касцюковіцкага р-на — 15.7.1952), поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПСС з 1944. На фронце з ліп. 1941. Снайпер сяржант З. вызначыўся пры вызваленні Польшчы і ў баях на тэр. Германії; з 20.8 да 25.9.1944 знішчыў 19 гітлераўцаў; 16.1.1945 пры адбіцці контратак ворага каля в. Юзэфаў Радамскага ваяводства знішчыў 12 ням. салдат і афіцэраў; 17.1.1945 ліквідаваў разлікі гармат варожай батарэі, захапіў 2 пушкі; 17 і 18.4.1945 у час прарыву абароны праціўніка на р. Одэр каля г. Лебус (Германія) знішчыў 17 гітлераўцаў; 22.4.1945 у баі за вышыню першым падняўся ў атаку, знішчыў 8 салдат ворага. Пасля вайны працаваў у калгасе на радзіме.

**ЗА́ЙЦАЎ** Іван Сцяпанавіч (9.10.1926, в. Чонкі Гомельскага р-на — 16.4. 1945), Герой Сав. Саюза (1945). З снеж. 1943 на 3 м Укр. і 1-м Бел. франтах. Камандзір аддзялення сяржант З. вызначыўся 16.4.1945 у баі за ст. Вербіг (Германія). Цяжка паранены закрыў сваім целам амбразуру варожага дзота, кулямётны агонь якога стрымліваў наступленне сав. воінаў. Пахаваны ў г. Кострын (ПНР). Яго імем названы вуліцы ў Гомелі, у в. Чонкі, цеплаход Галоўрэчфлоту БССР; у Гомелі на будынку ПТВ № 56, дзе ён вучыўся, мемар. дошка.

**ЗА́ЙЦАЎ** Мікалай Якаўлевіч (н. 10.3. 1923, ст. Крупкі Мінскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1944. Скончыў Чкалаўскую ваен. авіяц. школу пілотаў (1943), БДУ (1967). Канд. філасофскіх навук (1982), дацэнт (1983). З лют. 1944 ст. лейтэнант З. на 1-м і 4-м Укр. франтах: лётчык, камандзір звяна, нам. камандзіра эскадрыллі штурмавога авіяпалка. Удзельнік вызвалення Украіны, Польшчы, Чэхаславакіі. Зрабіў 185 баявых вылетаў, правёў 15 паветр. баёў, збіў 2 самалёты, знішчыў каля 20 танкаў, больш за 20 аўтамашын, 43 гарматы, 20 вагонаў. Да 1960 у Сав. Арміі, палкоўнік. З 1967 выкладчык БДУ.

**ЗА́ЙЦАЎ** Фёдар Іванавіч (н. 2.2.1913, в. Курына Віцебскага р-на), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1942. З 1937 на гасп. рабоце ў Віцебскай вобл. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. У партызанах з студз. 1942: камандзір аддзялення, узвода, палітрук роты, з ліст. 1942 камісар атрада, у ліст. 1943 — ліп. 1944 — *партызанскай брыгады імя ВЛКСМ*. У 1944—73 на сав. рабоце.

**ЗАКРЫНІ́ЧЧА**, вёска на тэр. Кіраўскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1,5 км на У ад в. Боркі Грыбавецкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 140 чал. 15.6.1942, у час карнай аперацыі *«Майскі жук»*, фашысты загубілі 137 жыхароў, вёску (19 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Астанкі жыхароў пахаваны ў магіле ахвяр фашызму ў в. Боркі. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ЗАЛАТО́Е ДНО**, вёска на тэр. Быхаўскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі. Знаходзілася на Пн ад чыг. ст. Тошчыца. У ліп. 1942, у час карнай аперацыі, фашысты ўсіх працаздольных мужчын адправілі ў канцлагер, астатніх жыхароў (старых, жанчын і дзяцей), выгналі з вёскі, вёску (10 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1973 на месцы вёскі пастаўлены мемар. знак.

**ЗАЛАТУ́ХІ**, вёска на тэр. Докшыцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на ПнЗ ад в. Вярэнькі Параф'янаўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жылі 42 чал. 20.3.1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 42 жыхароў, вёску (13 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1980 на месцы вёскі пастаўлены абеліск.

**ЗАЛЕ́СКІЯ**, сёстры, удзельніцы *Заронаўскага партыйна-камсамольскага падполля*. Нарадзіліся ў в. Прудзіны Заронаўскага сельсавета Віцебскага р-на, камсамолкі.

**Ганна Авяр'янаўна** (Арлоўская; 1914—28.4.1942), чл. КПСС. Да вайны працавала старшынёй праўлення Чашніцкага сельпо, была дэпутатам мясцовага Савета. У першыя дні акупацыі вярнулася да бацькоў у в. Воранава, уключылася ў падп. барацьбу. Вяла антыфаш. агітацыю сярод насельніцтва, пісала і распаўсюджвала лістоўкі, збірала зброю, ратавала і хавала дома параненых ваеннапалонных. Наладзіўшы сувязь

з разведгрупамі штаба Калінінскага фронту А. У. Іжокіна і М. Р. Яфімава, выконвала іх заданні, вяла разведку. На кватэры Залескіх была адна з явак падпольшчыкаў. Здабытыя падпольшчыкамі звесткі радысты групы Іжокіна перадавалі на Вял. зямлю. У пачатку крас. 1942 устанавіла сувязь з падп. групай А. Ф. Сізова ў Гарадку. У час падрыхтоўкі да разгрому гарадоцкага паліцэйскага ўчастка 24.4.1942 арыштавана ням.-фаш. акупантамі. Пасля катаванняў расстраляна каля в. Новы Болецк Стадолішчанскага сельсавета Гарадоцкага р-на разам з 10 падпольшчыкамі гарадоцкай групы і С. К. Бараноўскім з Заронаўскай групы. У 1971 на магіле пастаўлены стэла і абеліск.

М. Я. Зайцаў. Ф. П. Занько.



**Валянціна Васілеўна** (30.11.1918—15.8.1980). Да вайны працавала старшай піянерважатай. У падп. барацьбу ўключылася ў чэрв. 1941. Распаўсюджвала лістоўкі, збірала зброю для партызан, была партыз. праваднікoм. Здабывала звесткі аб варожых гарнізонах у Віцебску і Гарадку.

**Маргарыта Васілеўна** (н. 5.9.1920). У пачатку вайны эвакуіравана ў савецкі тыл. Скончыўшы курсы шафёраў, у 1942—45 была шафёрам зенітна-кулямётнага ваен. вучылішча.

**Ніна Васілеўна** (1922 — кастр. 1943). З жн. 1941 разведчыца і партызанская сувязная. Здабывала каштоўныя звесткі аб праціўніку для разведгрупы Іжокіна, выконвала заданні кіраўніка Заронаўскага падполля В. А. Зімяніна. Распаўсюджвала лістоўкі. Па даносу правакатара 23.9.1943 арыштавана акупантамі разам з падпольшчыкам І. І. Шпакавым. Пасля катаванняў расстраляна ў Оршы. На брацкай магіле стэла.

**Тамара Васілеўна** (н. 14.5.1925). Здабывала звесткі разведкі аб варожых гарнізонах у Гарадку, Віцебску, Полацку і дастаўляла іх у распалажэнне разведгрупы Іжокіна. Ажыццяўляла пастаянную сувязь з падп. групай А. Ф. Сізова ў Гарадку. Распаўсюджвала лістоўкі і зводкі Саўінфармбюро, дапамагала ваеннапалонным, якія ўцяклі з лагераў смерці, пераабрацца за лінію фронту. 23.4.1942 арыштавана фашыстамі, але шляхам падкупу здолела вызваліцца і ўцячы. З чэрв. 1942 да лютага 1944 разведчыца ў групе Іжокіна.

**Раіса Васілеўна** (16.4.1927—30.12.1947), сувязная разведгруп Іжокіна і Яфімава. Пісала і распаўсюджвала лістоўкі, збірала зброю, пераводзіла праз лінію фронту ў сав. тыл ваеннапалонных, якія ўцякалі з лагераў смерці. Тройчы ўцякала з эшалонаў, у якіх вывозілі сав. людзей на катаржныя работы ў Германію. У ліст. 1943 зняволена фашыстамі ў Віцебскі лагер смерці; вызвалена ў 1944 Чырв. Арміяй.

**ЗАЛЕ́ССЕ**, вёска на тэр. Жлобінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1 км на У ад в. Дуброва Кароткавіцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 70 чал. У кастр. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 23 жыхароў, вёску (17 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана на помніку спаленым вёскам у в. Кароткавічы і ў мемар. комплексе Хатынь.

**ЗАЛЕ́ССЕ**, вёска на тэр. Шумілінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 0,5 км на ПнУ ад в. Абалонне Лаўжанскага сельсавета. Перад вайной у ёй жылі 43 чал. У студз. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 43 жыхароў, вёску (11 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1971 на месцы вёскі пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ЗАЛЕ́ШЧЫНА**, вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1 км на ПдУ ад в. Мотужы Сенькаўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 90 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»*, фашысты загубілі 60 жыхароў, вёску (21 двор) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1975 на месцы вёскі насыпаны курган, на яго вяршыні пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ЗАЛУ́ЖЖА**, вёска на тэр. Жлобінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася ў Кароткавіцкім сельсавеце. Перад вайной у ёй жыў 21 чал. У кастр. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 17 жыхароў, у т. л. 3 дзяцей, вёску (4 двары) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. На месцы вёскі пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ЗАНЬКО́** Фёдар Пятровіч (15.2.1921, в. Занькі Лепельскага р-на — 9.5.1979), поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПСС з 1945. На фронце з 1941. Удзельнік баёў пад Сталінградам. Паветраны стралок штурмавога авіяпалка старшына З. вызначыўся ў баях за вызваленне Крыма, Беларусі і Усх. Прусіі. Зрабіў 234 баявыя вылеты на штурмоўку жывой сілы і тэхнікі, збіў 3 самалёты праціўніка. Пасля вайны жыў у в. Воранъ Лепельскага р-на.

**ЗАПО́ЛЬСКАЕ КАМСАМО́ЛЬСКА-МАЛАДЗЁЖНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала ў жн. 1941 — ліп. 1944 у в. Заполле Ружанскага р-на пад кіраўніцтвам Ружанскага антыфаш. к-та, Ружанскага падп. РК ЛКСМБ (з жн. 1943). У 1942 налічвала 16 чал. Сакратары: Я. І. Гардзей (жн. 1941 — май 1943), У. І. Прадко (чэрв.— жн. 1943), І. М. Маньчык (жн. 1943 — ліп. 1944).

Падпольшчыкі здабывалі зброю і боепрыпасы, перадавалі іх партызанам, прымалі па радыё зводкі Саўінфармбюро, распаўсюджвалі лістоўкі, праводзілі дыверсіі. Здабыўшы шрыфты, падпольшчыкі ў 1942 абсталявалі друкарню, дзе друкаваліся лістоўкі *Брэсцкага міжраённага «Камітэта барацьбы з нямецкімі акупантамі»*.

У барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі загінулі І. В. Дэйко, А. А. Куніца, І. А. Куніца, У. І. Прадко і інш. У в. Заполле (цяпер Пружанскі р-н) у гонар падпольшчыкаў у 1975 пастаўлены абеліск. *Р. А. Чарнаглазава.*

**«ЗАРА́ КАМУ́НЫ»**, газета, заснавана ў 1930 пад наз. «Рэчыцкая праўда». У час ням.-фаш. акупацыі орган Рэчыцкага падп. РК КП(б)Б. Вядома 8 нумароў за 24.8—9.11.1943 на бел. мове. Пасля вызвалення выдавалася пад той жа назвай, з 1962 «Дняпровец», орган Рэчыцкіх райкома і гаркома КПБ, раённага і гар. Саветаў нар. дэпутатаў.

**ЗАРА́КА-ЗАРАКО́ЎСКІ** Баляслаў Францавіч (30.3.1894, Полацк — 2.12.1963), ген.-лейт. (1946). Чл. КПСС з 1944. У арміі з 1913, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1935). У 1932—41 нач. кафедры Ваен.-інж. акадэміі РСЧА, дацэнт Маскоўскага гідрамеліярацыйнага ін-та. У вайну на Зах. і 1-м Бел. франтах: камандзір палка, дывізіі, нам. нач. штаба 1-га Бел. фронту. Удзельнік абароны Масквы, вызвалення Польшчы. У 1944—48 на адказных пасадах у Войску Польскім.

**ЗАРО́НАЎСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з ліп. 1941 да вер. 1943 у Заронаўскім сельсавеце Віцебскага р-на. Створана на аснове знішчальнага атрада. Арганізатар і кіраўнік — старшыня Заронаўскага сельсавета чл. КПСС В. А. Зімянін, пакінуты Віцебскім РК КП(б)Б для разгортвання барацьбы ў тыле ворага. Аб'ядноўвала 21 чал., у т. л. 8 камуністаў і 9 камсамольцаў.

Падпольшчыкі вялі антыфаш. прапаганду сярод насельніцтва вёсак Бялянкі, Воранава, Заронава, Казлы, Кузняцова, Лётцы, Ліцвякі, Матрасы, Міклушы, Палойнікі, Сцяпанкава, Сывараткі, Цiваны. Зімянін з акружэнцам Бурнейкам наладзілі прыём



Б. Ф. Зарака-Заракоўскі. К. С. Заслонаў. Г. Н. Захараў. Г. Ф. Захараў. І. К. Захараў. К. Ф. Захараў.

(партыз. мянушка Д з я д з ь к а К о с ц я; 7.1.1910, г. Асташкаў — 14.11.1942), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1942. Працаваў у чыг. дэпо ст. Віцебск, нач. дэпо ст. Рослаўль, з кастр. 1939— ст. Орша. У вер. 1941 у Маскве сфарміраваў з чыгуначнікаў партыз. атрад, у кастр. перайшоў з ім лінію фронту, уладкаваўся на працу ў Аршанскае дэпо, стварыў і ўзначаліў некалькі падп. дыверсійных груп, якія разам з інш. падп. групамі *Аршанскага партыйна-камсамольскага падполля* паралізавалі работу чыг. вузла. З лют. 1942 камандзір партыз. атрада, з ліп. 1942 — брыгады (гл. *Партызанская брыгада 1-я імя К. С. Заслонава*). Загінуў у баі з ням.-фаш. акупантамі ў в. Купаваць Сенненскага р-на (гл. *Купавацкі бой 1942).* У Айч. вайну 2 партыз. брыгады наз. імем З. У Оршы створаны музей З. (гл. *Аршанскі мемарыяльны музей Героя Савецкага Саюза К. С. Заслонава*). Яго імем названы дэпо ст. Орша, школа ў Оршы, чыг. станцыя ў Лепельскім р-не, вёска у Сенненскім р-не, калгасы, вуліцы ў многіх гарадах і вёсках, дзіцячая чыгунка ў Мінску. У Віцебску на доме, дзе жыў З., і на будынку дэпо — мемар. дошкі, у Оршы на магіле, у Сянно, на перакрыжаванні дарог Мінск — Масква і Орша — Віцебск пастаўлены помнікі З., на месцы яго гібелі — стэла. З. прысвечаны мастацкі кінафільм, творы літаратуры, жывапісу, скульптуры, музыкі. Пра яго складзены нар. песні і легенды.

**ЗАХА́РАВА** Аляксандра Нічыпараўна (н. 22.3.1903, с. Палiеўка Ямпольскага р-на Сумской вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Гомельскай вобл., дзярж. дзеяч БССР. Чл. КПСС з 1928. З 1923 настаўнічала. З 1938 у Стаўрапольскім крайкоме, з 1940 у Беластоцкім абкоме КП(б)Б. З лют. 1943 лектар Рагачоўскага падп. РК КП(б)Б. У ліст. 1943 — маі 1944 камісар *партызанскага палка 255-га.* З 1945 лектар, нам. заг. аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б. У 1947—59 нам. старшыні Прэзідыума ВС БССР, дырэктар Дома-музея I з'езда РСДРП. Дэп. ВС БССР у 1947—59.

**ЗАХА́РАЎ** Георгій Няфёдавіч (н. 24.4. 1908, с. Старое Сямёнкіна Кляўлінскага р-на Куйбышаўскай вобл.), ген.-маёр авіяцыі (1940). Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1929. Скончыў Сталінградскую ваен. школу лётчыкаў (1933), курсы пры Ваен. акадэміі Генштаба (1939), акадэмію Генштаба (1950). У 1936—37 удзельнік нац.-рэв. вайны ў Іспаніі. З 1941 на Зах., 3-м Бел. франтах. Камандзір знішчальнай авіядывізіі, у склад якой уваходзіў французскі полк *«Нармандыя-Нёман»*, З. вызначыўся пры вызваленні Віцебска, Оршы, Мінска, Гродна. На працягу вайны зрабіў 153 баявыя вылеты, удзельнічаў у 48 паветр. баях, асабіста збіў 10 самалётаў праціўніка, з іх 2 над Мінскам. Да 1961 у Сав. Арміі. Віцэ-прэзідэнт таварыства «СССР — Францыя».

**ЗАХА́РАЎ** Георгій Фёдаравіч (5.5. 1897, с. Шылава Краснаармейскага р-на Саратаўскай вобл.—26.1.1957), ген. арміі (1944). Чл. КПСС з 1919. У арміі з 1915, у Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік 1-й сусв. і грамадз. войнаў. Скончыў ваен. акадэміі імя Фрунзе (1933), Генштаба (1939). У Айч. вайну з 1941 на Бранскім, Зах., Паўн.-Каўказскім, Паўд.-Усх., Сталінградскім, Паўд., 2-м Бел., 4-м Укр. франтах: нач. штаба арміі, нач. штаба фронту, нам. камандуючага франтамі, камандуючы арміямі, фронтам. У чэрв.— ліп. 1944 пад яго камандаваннем войскі 2-га Бел. фронту ўдзельнічалі ў вызваленні Беларусі. Пасля вайны ў Сав. Арміі. Дэп. ВС СССР у 1950—54. Яго імем названы вуліцы ў г. Ваўкавыск, Гродна.

**ЗАХА́РАЎ** Іван Кузьміч (13.8.1909, в. Ганявічы Лагойскага р-на — 18.5. 1982), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. Герой Сав. Саюза (1944). Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Чл. КПСС з 1937. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1948). У 1941 адзін з стваральнікаў і кіраўнікоў *Асвейскага партыйна-патрыятычнага падпол*
У крас. 1942 арганізаваў і ўзнач
ліў партыз. атрад імя Фрунзе, у лі
1942 — студз. 1944 камандзір *па*
*занскай брыгады Асвейскай імя М.*
*Фрунзе*, адначасова ў чэрв. 1942
снеж. 1943 1-ы сакратар Асвейск
падп. РК КП(б)Б. З ліп. 1944 на пар
рабоце. У 1953—63 старшыня
рэсп. к-та прафсаюза рабочых буда
ніцтва і прамысловасці будаўніч
матэрыялаў. Аўтар кн. «Вайна ў к
азёр» (2 выд. 1973). Яго імем назва
вуліца ў пас. Масты Любанскага р-

**ЗАХА́РАЎ** Канстанцін Фёдара
(крас. 1919, г. Іванава РСФСР –
13.1.1944), Герой Сав. Саюза (194
Чл. КПСС з 1942. Скончыў Пермску
ваен. авіяц. школу (1939). З 1941
Зах., Цэнтр., Бел. франтах. Лётчы
знішчальнік, камандзір ав
эскадрыллі капітан З. зрабіў 1
баявых вылетаў, правёў 41 паве
бой, збіў 15 варожых самалётаў. 13.
1944 у раёне Мазыра яго самалёт бы
падбіты. Ахопленую полымем маш
ну капітан З. скіраваў на варожую ка-
лону. Пахаваны ў г. Мазыр. На б
дынку Мазырскага нафтаперапрацо
чага з-да, у калектыў якога навеч
залічаны З., у яго гонар устаноўле
мемар. дошка.

**ЗАХА́РАЎ** Якаў Захаравіч (25.10.190
в. Логава Веліжскага р-на Смале
скай вобл.— 2.7.1955), адзін з кіра
нікоў партыз. руху ў Віцебскай во
Чл. КПСС з 1931. Скончыў Рэс
парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1950
У партызанах з 1941: камандзір гру
пы, са снеж. 1941 атрада, нач. шта
атрада, з крас. 1942 брыгады, у ліс
1942 — кастр. 1943 камандзір *пар*
*тызанскай брыгады 1-й Беларуска*
адначасова чл. Суражскага пад
РК КП(б)Б. З кастр. 1943 у БШПР
З 1944 на парт. рабоце.

**ЗАХА́РКІН** Іван Рыгоравіч (27.1.188
с. Цюрына Шацкага р-на Разанска
вобл.— 15.10.1944), ген.-палк. (1943
Чл. КПСС з 1918. У Чырв. Ар
з 1918. Скончыў Ваен. акадэмі
РСЧА (1921), курсы пры Ваен.-палі
акадэміі (1930). Удзельнік 1-й сусв.
грамадз. войнаў, вызвалення Зах. Бе
ларусі ў 1939. З жн. 1941 камандава
49-й арміяй. З чэрв. 1943 нам. каман-



М. В. Зімянін. М. І. Зіньковіч. Я. І. Злацін. А. І. Зосік. І. М. Зубачоў. К. М. Зубовіч.

ВС СССР у 1946—54, 1966—89, ВС БССР у 1947—55.

**ЗІНЬКО́ВІЧ** Мітрафан Іванавіч (27.6.1900, в. Пячары Касцюковіцкага р-на — 24.9.1943), ген.-маёр танк. войск (1943), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1924. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1933). У Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз. вайны, вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну з 1942 на Бранскім, Цэнтр., Варонежскім франтах. Камандзір танк. корпуса З. вызначыўся пры вызваленні Украіны. 22.9.1943 група танкаў на чале з ім адна з першых фарсіравала Дняпро, авалодала плацдармам і забяспечыла пераправу ўсіх часцей корпуса. Загінуў у баі. Пахаваны ў г. Прылукі Чарнігаўскай вобл., на магіле пастаўлены абеліск. Яго імем названа вуліца ў г. Касцюковічы.

**ЗЛА́ЦІН** Яфім Ізраілевіч (20.8.1913, Магілёў — 23.8.1965), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1943. У Чырв. Арміі з 1935. Скончыў Ленінгр. ваен.-паліт. вучылішча імя Энгельса (1944). З 1943 на Варонежскім, Сцяпным франтах. Вызначыўся 24—25.9.1943 пры фарсіраванні Дняпра на тэр. Украіны. Мінамётны ўзвод на чале з сяржантам З. фарсіраваў раку на Пд ад Крэменчуга, заняў агнявую пазіцыю, адбіў варожыя контратакі, знішчыў 9 кулямётных і 3 мінамётныя кропкі, каля роты гітлераўцаў. Цяжка паранены не пакінуў поле бою. Пасля вайны на гасп. рабоце.

**«ЗМАГАРА́М ЗА САВЕ́ЦКУЮ ЎЛА́ДУ»,** мемарыяльны комплекс у гонар устанаўлення Савецкай улады на Магілёўшчыне. Створаны ў 1982 у Магілёве на высокім беразе Дняпра (скульпт. Л. Гумілеўскі, арх. К. Аляксееў, А. Іваноў). Сэнсавай і пластычнай дамінантай мемарыяла з'яўляецца бронзавая фігура жанчыны (выш. 7 м) на гранітным пастаменце (выш. 13 м) — сімвал Перамогі, аднаўлення жыцця, вечнага руху наперад. На плошчы перад манументам — абліцаваныя гранітам стэлы з 5 бронзавымі барэльефамі на тэмы Кастрычніцкай рэвалюцыі, калектывізацыі, абароны Магілёва ў 1941, партыз. руху, пасляваен. адраджэння Магілёўшчыны. Каля падножжа манумента — Вечны агонь.

**«ЗНА́МЯ ПОБЕ́ДЫ»,** газета, орган *Лапскага падпольнага міжрайкома КП(б)Б.* Выдомы № 4,5,6 ад 18.4, 1.5 і 19.6.1944 на рус. мове. Назва № 1—3 «Красное знамя». Рэдактар І. П. Кныш.

**«ЗНА́МЯ СВОБО́ДЫ»,** газета, заснавана ў 1939. У час ням.-фаш. акупацыі орган Ашмянскага падп. РК КП(б)Б. Выдома 13 нумароў за 25.10.1943 — 1.5.1944 на рус. мове. Рэдактар У. А. Бабарыкін. З 1962 выдаецца пад наз. «Красное знамя», орган Ашмянскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«ЗНА́МЯ СВОБО́ДЫ»,** газета, орган Дзятлаўскага падп. РК КП(б)Б. Выдома 10 нумароў за 23.3—22.5.1944 на рус. мове. Рэдактар Р. В. Макараў. Пасля вызвалення выдавалася пад наз. «За новую вёску», з 1960 «Сцяг камунізму», з 1965 «Перамога», орган Дзятлаўскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**ЗНІШЧА́ЛЬНЫЯ БАТАЛЬЁНЫ,** ваенізаваныя добраахвотніцкія фарміраванні сав. грамадзян для барацьбы з варожымі дыверсантамі і парашутыстамі ў гады вайны. Ствараліся паводле пастаноў СНК СССР ад 24.6.1941 «Аб мерапрыемствах па барацьбе з парашутнымі дэсантамі і дыверсантамі праціўніка ў прыфрантавой палосе» і «Аб ахове прадпрыемстваў і ўстаноў і стварэнні знішчальных батальёнаў». Фарміраваліся гал. чынам з прадстаўнікоў парт., сав. і камсам. актыву, з добраахвотнікаў, фізічна моцных і падрыхтаваных у ваен. адносінах, але не падлеглых прызыву ў Чырв. Армію. Да канца ліп. 1941 у краіне створана 1755 З. б. (больш за 328 тыс. чал.), больш як 300 тыс. добраахвотнікаў уваходзіла ў групы садзеяння З. б. На Беларусі фарміраванне З. б. пачалося ў выніку аб'яднання рабочых атрадаў і груп самаабароны, створаных у першыя гадзіны вайны мясцовымі парт. органамі, а таксама ў адпаведнасці з дырэктывай ЦК КП(б)Б ад 23.6.1941 аб арган... цыі барацьбы з варожымі дывер... тамі і парашутыстамі. Да 15 ліп... рэспубліцы створана з добраах... нікаў 78 З. б. (больш за 13 тыс. ча... і 300 груп самаабароны (27 тыс. ча...

З. б. ўдзельнічалі ў абаронч[ых] ... ліквідавалі групы праціўніка, якія пр... рваліся ў сав. тыл, змагаліся з ды... сантамі і паветранымі дэсантамі вор... рабілі на дарогах завалы, «воўчыя я... ліквідавалі вынікі налётаў фаш. аві... ратавалі матэрыяльныя і культурныя ... штоўнасці, праводзілі палітработу ся... насельніцтва, з'яўляліся папаўнен... часцей Чырв. Арміі.

Адважна змагаліся з ворагам З. б. ў Гомелі, Магілёве, Віцебску, Пінск... у Аршанскім, Гарадоцкім, Лёзн... скім, Мехаўскім, Расонскім, Сіроц... скім, Суражскім (Віцебская вобл.), Буда-Кашалёўскім, Веткаўскім, До... рушскім, Жлобінскім, Журавіцкі[м], Кармянскім, Лоеўскім, Рагачоўскі[м], Свяцілавіцкім, Стрэшынскім, Цер... хоўскім, Уваравіцкім, Чачэрскім (Го... мельская вобл.), Акцябрскім, Васіл... віцкім, Даманавіцкім, Ельскім, Жы... кавіцкім, Калінкавіцкім, Лельчыцкі[м], Мазырскім, Парыцкім, Тураўскі[м] (Палеская вобл.) і інш. р-нах Бела... русі. Паводле дырэктывы СНК БСС[Р] і ЦК КП(б)Б ад 6.7.1941 З. б. ў ра... нах баёў уключаліся ў *народнае апа[л]чэнне*, а ў выпадку акупацыі мясц... васці пераходзілі да партыз. метада[ў] барацьбы. У пач. ліп. 1941 з байцо[ў] Акцябрскага З. б. Палескай вобл. па... чалі фарміравацца партыз. групы. ... 8 ліп. Саўінфармбюро паведаміла пр... баявую дзейнасць партыз. атра[да] «Чырвоны Кастрычнік» пад каманда... ваннем Ц. П. *Бумажкова.* 23.7.194[1] Палескі абком КП(б)Б прыняў рашэн[не] аб пераўтварэнні З. б. у партыз. атрады на ўсёй тэр. вобласці. Ядро[м] партыз. атрадаў у рэспубліцы ста[лі] таксама З. б. Ельскага, Жлобінскага, Лельчыцкага, Лоеўскага, Мехаўскага, Парыцкага, Рагачоўскага, Суражскага і інш. р-наў. Пасля вызвалення Беларусі ў ліп. 1944 сфарміравана 18... З. б. (каля 17 тыс. чал.) і больш за 7 тыс. груп садзеяння З. б. (каля 43 тыс. чал.), якія ахоўвалі важныя аб'екты ў тыле наступаючай Чырв. Арміі, да-

памагалі сапёрным часцям, змагаліся з бандамі бурж. нацыяналістаў у зах. абласцях рэспублікі, збіралі трафейную зброю, толькі ў ліп. 1944 знішчылі больш за 2 тыс. і ўзялі ў палон 22 тыс. салдат і афіцэраў праціўніка. *Р. Р. Кручок, А. Ф. Хацкевіч.*

**ЗО́СІК** Анатоль Ільіч (н. 15.11.1924, в. Горка Драгічынскага р-на), поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПСС з 1963. На фронце з 1944. Камандзір стралк. аддзялення сяржант З. вызначыўся пры вызваленні в. Вулька Выбраніцкая (Польшча), у баях за вышыню Цэбельс на Шчэцінскім напрамку. У баі за населены пункт Забаў (Памеранія) падняў аддзяленне ў атаку, закідаў варожую траншэю гранатамі і замацаваўся ў ёй. Пасля вайны працаваў у органах МУС БССР.

**ЗУ́БАЎ** Рыгор Мікітавіч (7.1.1911, с. Беланогава Куртамышскага р-на Курганскай вобл.—3.7.1944), Герой Сав. Саюза (1944). З 1941 на Ленінградскім, Зах., Сталінградскім, 2-м Укр. і 3-м Бел. франтах. Механік-вадзіцель танка ст. сяржант З. вызначыўся ў 1944 на тэр. Украіны. У час Бел. аперацыі 3.7.1944 каля в. Пільніца Мінскага р-на сваім ахопленым полымем танкам тараніў варожы «тыгр». Пахаваны ў в. Бальшавік Мінскага р-на ў брацкай магіле сав. воінаў. Навечна залічаны ў спісы танк. часці.

**ЗУБАЧО́Ў** Іван Мікалаевіч (28.2.1898, в. Падлесная Слабада Лухавіцкага р-на Маскоўскай вобл.— 24.7.1944), адзін з кіраўнікоў *Брэсцкай крэпасці абароны 1941*. Чл. КПСС з 1918. У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз., сав.-фінл. 1939—40 войнаў. Нам. камандзіра 44-га стралк. палка капітан З. 24.6.1941 узначаліў зводную групу абаронцаў цэнтр. часткі крэпасці — Цытадэлі. Цяжка паранены і кантужаны трапіў у палон, загінуў у лагеры для ваеннапалонных. Яго імем названы вуліцы ў Брэсце, Жабінцы, Мінску.

**ЗУБО́ВІЧ** Дзмітрый Дзмітрыевіч (29.10.1909, в. Бялевічы Слуцкага р-на —14.4.1976), ген.-лейт. (1967). Чл. КПСС з 1938. У Чырв. Арміі з 1931. Скончыў Васн.-гасп. акадэмію (1941), Ваен. акадэмію Генштаба (1948). У Айч. вайну на Карэльскім фронце: пам. і нам. нач. аддзела ў штабе тылу фронту, нам. камандзіра дывізіі і корпуса па тыле. У 1949—68 нач. штаба тылу і нач. тылу ваен. акругі.

**ЗУБО́ВІЧ** Канстанцін Міхайлавіч (1904, в. Папоўцы Вілейскага р-на — 28.12.1944), Герой Сав. Саюза (1945). На фронце з 1944. Радавы З. вызначыўся ў баі на тэр. Венгрыі. 5.12. 1944 у ліку першых фарсіраваў Дунай, гранатамі знішчыў кулямётны разлік праціўніка, агнём з захопленага кулямёта памог аваподаць плацдармам і адбіць 5 варожых контратак. Загінуў у баі. Пахаваны ў Будапешце. Яго імем названы вуліцы ў г. Вілейка, у в. Нарач Вілейскага р-на; у в. Папоўцы на доме, дзе ён жыў, мемар. дошка.

**ЗУЕ́ВА**, вёска на тэр. Шумілінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3,5 км на З ад в. Роўнае Казяпскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 77 чал. У сак. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 37 жыхароў, вёску (16 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. На месцы вёскі пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ЗУЕ́ВІЧ** Іван Цімафеевіч (н. 21.5.1904, в. Карповічы, Віцебскі р-н), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Гомельскай вобл. Чл. КПСС з 1927. Скончыў Камуніст. ун-т Беларусі імя Леніна (1932). З 1932 на журналісцкай, сав. і парт. рабоце. У жн. 1941— чэрв. 1944 сакратар Рагачоўскага падп. РК КП(б)Б, адначасова з крас. 1943 камісар *партызанскага атрада 252-га*, у сак.— чэрв. 1944 кіраўнік *Рагачоўскай ваенна-аператыўнай групы*. У 1944—63 на парт. і сав. рабоце. Ганаровы грамадзянін г. Рагачова. Аўтар успамінаў «Райком у падполлі» (1972).



Мемарыяльны комплекс «Змагарам за Савецкую ўладу».

**ЗЫЛЬ** Васіль Канстанцінавіч (20.4. 1902, в. Востраў Смалявіцкага р-на — 4.12.1973), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1927. У Чырв. Арміі з 1923. Скончыў Маскоўскую арт. школу (1929), вучыўся ў Ваен. арт. акадэміі (1931—33). З чэрв. 1941 на Зах., Калінінскім, Паўн.-Зах., Сталінградскім, Данскім, 1-м Укр. франтах. Камандзір мінамётнага палка падпалк. З. вызначыўся пры фарсіраванні Одэра. 25.1.1945 полк на чале з З. адзін з першых пераправіўся цераз раку на Пд ад г. Сцінава і агнём падтрымаў пяхоту, якая вяла баі за расшырэнне плацдарма. Пасля вайны ў Сав. Арміі, палкоўнік. Ганаровы грамадзянін г. Болхаў Арлоўскай вобл.

**ЗЫ́СЛАЎ**, мемарыяльны комплекс на востраве Зыслаў у Любанскім р-не. Адкрыты ў 1969 (арх. Г. Заборскі). Уключае: 14-метровы абеліск з 3 вертыкальных плоскасцей, да якога вядзе шырокая лесвіца, на яе пляцоўцы пастаўлены 2 стэлы; помнік на 3 брацкіх магілах, дзе пахавана 290 сав. воінаў і партызан,— скульптура старога ў жалобе і 6 пліт з імёнамі загінуўшых; 6 адноўленых партыз. зямлянак; памятны знак у выглядзе вітка спіралі на месцы былога партыз. аэрадрома; 2 мемар. знакі накшталт факелаў пры ўездзе і выездзе з вострава.

У гады вайны З. з'яўляўся цэнтрам *Акцябрска-Любанскай партызанскай зоны*. На востраве базіраваліся падп. Мінскія абкомы КП(б)Б і ЛКСМБ (гл. адпаведныя артыкулы). Любанскія райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, штабы Мінскага партыз. злучэння, партыз. брыгады 25-й імя Панамарэнкі; выдаваліся газеты *«Звязда»*, *«Чырвоная змена»*, *«Кліч Радзімы»*. З дапамогай мясцовых жыхароў быў пабудаваны партыз. аэрадром, праз які ажыццяўлялася забеспячэнне партызан боепрыпасамі, узбраеннем, медыкаментамі, эвакуацыя параненых у сав. тыл. З.— філіял *Любанскага музея народнай славы*.

**ЗЭ́ЛЬВА,** гар. пасёлак, цэнтр Зэльвенскага р-на, на р. Зальвянка. За 128 км на ПдУ ад Гродна, за 2 км ад чыг. ст. Зэльва на лініі Ваўкавыск — Слонім, на аўтадарозе Ваўкавыск — Слонім. 1.7. 1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў З. і раёне 6049 мясцовых жыхароў. У раёне дзейнічалі Зэльвенскія падп.

В. К. Зыль. П. М. Зюлькоў. М. В. Зябніцкі. М. М. Зялёнкін.





Мемарыяльны комплекс **Зыслаў.** Партызанскія зямлянкі.

райкомы КП(б)Б (10.12. 1943—13.7. 1944) і ЛКСМБ (18.12.1943—13.7. 1944), *партызанская брыгада Ленінская, партызанская брыгада «Перамога».* Вызвалена 12.7.1944 воінамі 169-й стралк. дывізіі (палк. Ф. А. Вяроўкін) 40-га стралк. корпуса 3-й арміі 2-га Бел. фронту ў ходзе *Беластоцкай аперацыі 1944.* У З. брацкія магілы сав. воінаў, партызан, ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі. *У. М. Якубоўскі.*

**ЗЮЛЬКО́Ў** Пётр Маркавіч (16.1.1924, в. Конаўка Кіраўскага р-на Калужскай вобл.—27.6.1944), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1944. З лют. 1943 на Зах. і 2-м Бел. франтах. Камандзір узвода ўпраўлення батарэі мінамётнага палка лейтэнант З. вызначыўся пры вызваленні Шклоўскага р-на. 27.6.1944 у баі за в. Трылесіна сваім целам закрыў амбразуру варожага дзота. Пахаваны ў в. Палыкавічы Шклоўскага р-на ў брацкай магіле сав. воінаў.

**ЗЯБНІ́ЦКІ** Мікалай Васілевіч (17.12. 1919, г. Краснаармейск Какчэтаўскай вобл.— 29.11.1975), удзельнік партыз. руху на Беларусі. Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1947. Скончыў Арлоўскае пях. вучылішча (1941). На фронце з чэрв. 1941, з верасня ст. лейтэнант З. ў тыле ворага: камандзір узвода партыз. атрада спец. прызначэння, які дзейнічаў на тэр. Віцебскай і Смаленскай абл. З крас. 1942 у *партызанскім атрадзе «Другія»,* з ліп. 1942 да ліст. 1943 камандзір гэтага атрада. У 1943—55 у органах дзярж. бяспекі.

**ЗЯЛЁНАЯ БУ́ДА,** вёска на тэр. Маларыцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1,5 км на Пд ад в. Каростаўка (з 1964 Баравая) Вялікарыцкага сельсавета. 9.10.1942, у час карнай аперацыі *«Трохвугольнік»,* фашысты загубілі 28 жыхароў, вёску (15 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1970 на месцы вёскі насыпаны курган, на яго вяршыні пастаўлены абеліск.

**ЗЯЛЁНКА** Барыс Кірылавіч (3.8.19… в. Баянава Глускага р-на — 22… 1966), адзін з кіраўнікоў партыз. ру… ў Палескай вобл. Чл. КПСС з 19… З 1931 на гасп. рабоце. У пар… занах з ліп. 1941: радавы, каман… аддзялення, у сак.-кастр. 1943 ка… сар *партызанскай брыгады 225-й,* … тым да сак. 1944 камісар атрада. П… ля вайны на гасп. рабоце.

**ЗЯЛЁНКІН** Міхаіл Міхайлавіч (н. 20… 1920, г. п. Рудзенск Пухавіц… р-на), Герой Сав. Саюза (1946). Ч… КПСС з 1943. Скончыў Віцебс… мастацкае вучылішча (1938), Ба… скую школу ваен. лётчыкаў (194… Бел. ін-т нар. гаспадаркі (195… З 1941 на Калінінскім, Зах., 1-м … 2-м Бел. франтах. Лётчык-знішча… нік ст. лейтэнант З. зрабіў 326 ба… вых вылетаў, збіў асабіста 28 вар… жых самалётаў і 4 у групавых ба… Да 1986 працаваў на Мінскім маст… ка-вытворчым камбінаце. Чл. Са… мастакоў БССР (1965).

**ЗЯЛЁНЫ ГАЙ,** вёска на тэр. Хойні… га р-на, знішчаная ням.-фаш. аку… тамі разам з жыхарамі. Знаходзі… ся за 1,5 км на ПдУ ад в. На… сёлкі Дварышчанскага сельсав… Перад вайной у ёй жыў 121 ч… У чэрв. 1943, у час карнай апер… цыі, фашысты (т. зв. «баявая гр… Шымана») загубілі 102 жыхароў, … т. л. 32 дзіцяці, вёску (24 два… спалілі. Пасля вайны не адрадзіла… У 1968 на месцы вёскі пастаўле… абеліск. Увекавечана ў мемар. ком… лексе Хатынь.

**ЗЯНО́ВІЧ** Пётр Рыгоравіч (15.10.191… в. Вялікія Стайкі Гарадоцкага р-на — 10.9.1970), адзін з арганізатараў … кіраўнікоў парт. падполля і парты… руху на тэр. Гомельскай вобл. Ч… КПСС з 1940. Скончыў Мінскі фіна… сава-эканамічны тэхнікум (1933), Р… публіканскую парт. школу пры Ц… КП(б)Б (1950), Гомельскі педінстыт… (1957). У пач. вайны пакінуты д… падп. работы ў тыле ворага, арга… заваў групу (гл. ў арт. *Брагінск… партыйна-патрыятычнае падполле*… З крас. 1942 у партызанах, у кастр.— ліст. 1943 камісар атрада імя Като… скага, адначасова сакратар Брагін… скага падп. РК КП(б)Б. Пасля вайн… старшыня райвыканкомаў у Брагін… Івянцы, Клецку. Дэп. ВС БССР … 1951—55. Яго імем названа вулі… ў Брагіне.

**ЗЯНЬКІ́,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1 км на Пд ад в. Муквянішча Сенькаўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 66 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 40 жыхароў, вёску (22 двары) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1982 на месцы вёскі пастаўлены мемар. знак. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ЗЯНЬКО́ВА** Ефрасіння Савельеўна (22.12.1923, в. Ушалы, Шумілінскі

р-н —19.4.1984), адзін з кіраўнікоў камсам.-маладзёжнага падполля ў Віцебскай вобл. Герой Сав. Саюза (1958). Чл. КПСС з 1945. Да вайны працавала на віцебскай ф-цы «Сцяг індустрыялізацыі». Пасля акупацыі Віцебшчыны вярнулася ў родную вёску, наладзіла сувязь з партыз. атрадам імя Варашылава брыгады імя Леніна, выконвала яго заданні, вяла разведку. У пач. 1942 узначаліла *Обальскае камсамольска-маладзёжнае падполле.* З вер. 1943 у партыз. брыгадзе імя Леніна. У 1944—67 на камсам. і адм. рабоце. Яе імем названа вуліца ў Віцебску; на доме, дзе яна жыла, мемар. дошка; у г. п. Обаль — помнік.



**ІАСКЕ́ВІЧ** Іван Фёдаравіч (11.3.1898, в. Белякоўшчына Гродзенскага р-на —8.8.1964), ген.-лейт. (1946). Чл. КПСС з 1940. У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1938). У Айч. вайну з 1941 на Зах., Закаўказскім, Паўн.-Каўказскім, Бел. і 1-м Бел. франтах: нач. штаба і камандзір дывізіі, нам. камандзіра корпуса. Удзельнік баёў на Каўказе, вызвалення Гомеля, Рэчыцы, Баранавіч. У 1945—47 у Войску Польскім, у 1947—55 нач. кафедры Ваен.-паветр. інж. акадэміі імя Жукоўскага.

**ІА́ЎЛЕЎ** Сяргей Іванавіч (30.9.1899, г. Шчадрынск Курганскай вобл.—4.4.1979), ген.-маёр (1943). Чл. КПСС з 1925. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1930). У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадзянскай вайны, сав.-фінл. вайны 1939—40. У 1933 камандзір 1-га Бел. палка НКУС у Мінску. З 22.6.1941 на Зах. фронце, камандзір 64-й стралк. дывізіі 44-га стралк. корпуса 13-й арміі, палкоўнік. Дывізія пад яго камандаваннем вызначылася ў *Мінска абароне 1941* (займала рубеж Стайкі — Заслаўе — Старое Сяло). Удзельнік абароны Масквы (камандзір *Пралетарскай Маскоўска-Мінскай стралковай дывізіі*). Ваяваў на Калінінскім фронце. З ліст. 1942 кіраваў баявымі дзеяннямі Вадзінскіх партыз. брыгад Смаленскай вобл. У 1943—44 камандаваў 215-й стралк. дывізіяй 33-й арміі, якая ўдзельнічала ў вызваленні Смаленскай і часткі Віцебскай абл., пазней на 4-м Укр. фронце. Да 1954 служыў у Сав. Арміі.

**ІВА́НАВА,** Я н а в а, горад, цэнтр Іванаўскага р-на, на р. Самараўка. За 140 км на У ад Брэста, за 2 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі на лініі Брэст — Лунінец, на аўтадарозе Брэст — Лунінец. У 1940—71 гар. пасёлак. 27.6. 1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў І. і раёне 8804 чал. У гар. пасёлку і раёне дзейнічалі Іванаўскія падп. райкомы КП(б)Б (канец 1942—30.3.1944) і ЛКСМБ (снеж. 1942—30.3.1944), партыз. брыгады 99-я імя Дз. Ц. Гуляева, імя Молатава, імя Свярдлова, Пінская, асобны партыз. атрад Іванаўскі (гл. адпаведныя артыкулы); выдавалася падп. газ. *«Партизан Полесья»*. 23.7. 1943 партызаны разграмілі ням.-фаш. гарнізон на чыг. ст. Янаў-Палескі (гл. *Камень-Кашырская аперацыя 1943).* Вызвалена 16.7.1944 воінамі 48-й (ген.-маёр Г. М. Корчыкаў) і 55-й (ген.-маёр А. П. Турчынскі) гвардз. стралк. дывізій 20-га стралк. корпуса 28-й арміі, 12-й гвардз. (ген.-маёр Дз. К. Малькоў) і 212-й (палк. У. Г. Кучынёў) стралк. дывізій 9-га гвардз. стралк. корпуса 61-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе *Беларускай аперацыі 1944.* У І. брацкія магілы сав. воінаў і партызан, ваеннапалонных, партызан і ахвяр фашызму, на якіх устаноўлены помнікі; помнік землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны, мемар. дошка воінам-вызваліцелям і партызанам. *Н. У. Капранава.*

**ІВАНО́Ў** Барыс Канстанцінавіч (6.9. 1905, в. Заклінне Лужскага р-на Ленінградскай вобл.—3.7.1979), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1928. З 1928 на камсам. і педагагічнай рабоце. У партызанах з крас. 1942: камандзір групы, камісар атрада, у чэрв. 1943— чэрв. 1944 камісар, адначасова ў крас.— чэрв. 1944 камандзір *партызанскай брыгады 1-й імя К. С. Заслонава,* чл. Аршанскага падп. РК КП(б)Б. З 1944 на педагагічнай і сав. рабоце.

**ІВАНО́Ў** Васіль Зіноўевіч (1.1.1898, с. Цітаўка Ягор'еўскага р-на Алтайскага краю—13.4.1946), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1927. З 1920 на педагагічнай, сав., парт. рабоце, у органах юстыцыі. У партызанах з мая 1943: нач. штаба, з ліп. 1943 камандзір атрада, у кастр. 1943 камісар, у кастр. 1943— ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады 20-й імя В. С. Грызадубавай,* адначасова чл. Быценскага падп. міжрайкома, РК КП(б)Б. З 1944 старшыня райвыканкома, 1-ы сакратар Быценскага РК КП (б)Б.

**ІВАНО́Ў** Ермалай Аляксеевіч (27.6. 1912, в. Падпаяскі Веліжскага р-на Смаленскай вобл.—11.10.1977), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1939. З 1932 на гасп. рабоце. У 1940—41 у Чырв. Арміі. У партызанах з жн. 1942: радавы, камандзір аддзялення, з кастр. 1942 нач. штаба брыгады «За Савецкую Беларусь», у крас.—чэрв. 1943 камісар, у чэрв. 1943— ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады 1-й Мінскай.* З 1944 на сав. і адм.-гасп. рабоце.

**ІВАНО́Ў** Іван Аўксенцьевіч (н. 25. 11. 1910, г. п. Відзы Браслаўскага р-на), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Вілейскай вобл. Чл. КПСС з 1935. З 1928 рабочы. За рэв. дзейнасць у Зах. Беларусі зняволены польск. бурж. уладамі ў турму (1936—39). З 1940 працаваў у Відзаўскім райвыканкоме. У партызанах з чэрв. 1942: камандзір групы, узвода, з сак. 1943 камісар атрада, у кастр. 1943— ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады імя Л. М. Даватара.* У 1944—75 на сав. і гасп. рабоце.

Е. С. Зянькова. І. Ф. Іаскевіч.





Мемарыяльны комплекс **Зыслаў.** Памятны знак на месцы былога партызанскага аэрадрома.

**ІВАНО́Ў** Іван Іванавіч (27.1.1897, в. Трупехіна Паддорскага р-на Наўгародскай вобл.— 8.7.1968), Герой Сав. Саюза (1943), ген.-лейт. (1944). Чл.

Р. Л. *Васілевіч,* У. К. Курленка, Г. В. *Будай.*

Аб'ядноўвала партыз. брыгады імя Сталіна, імя Чкалава, імя Жукава, імя Фрунзе (пазней 18-я імя Фрунзе), імя Панамарэнкі, імя Шчорса, «За Савецкую Беларусь», асобна дзейныя атрады Дз. А. Дзенісенкі (пазней партыз. брыгада 1-я Бел. кавалерыйская), П. А. Алыбіна, імя Кутузава і 106-ы (гл. адпаведныя артыкулы). У кастр. 1943 брыгада імя Жукава і атрад Дзенісенкі перададзены для фарміравання *Стаўбцоўскага партызанскага злучэння;* у снеж. 1943— студз. 1944 партыз. брыгада імя Фрунзе перадыслацыравана і ўключана ў склад *Баранавіцкага паўднёвай зоны партызанскага злучэння.* На час злучэння з Чырв. Арміяй 4—6.7.1944 налічвала 5,5 тыс. партызан.

*Я. Д. Гапееў.*

**ІВЯНЕ́ЦКА-НАЛІБО́ЦКАЯ ПАРТЫЗА́НСКАЯ ЗО́НА.** Утварылася ў ходзе бязлітасных баёў партыз. атрадаў і груп у перадполлі чыгунак Стоўбцы — Мінск і Маладзечна — Мінск з мэтаю вызвалення ад ням.-фаш. акупантаў. Уключала тэр. Івянецкага і часткі сумежных з ім Валожынскага, Дзяржынскага, Заслаўскага, Мінскага, Мірскага, Радашковіцкага, Стаўбцоўскага р-наў, якая кантралявалася партызанамі. Цэнтрам зоны была Налібоцкая пушча, адкуль вясной і летам 1942 пачалася ліквідацыя гарнізонаў ворага ў в. Волма і Налібакі (гл. *Налібоцкія баі 1942, 1943).* З жн. 1942 да крас. 1943 кіраўніцтва партыз. зонай ажыццяўляла камандаванне *Асобага злучэння партызанскіх атрадаў* (камандзір В. В. Шчарбіна). Да восені 1943 тэр. зоны складала 2,5 тыс. км$^2$, яе ўтрымлівала 9 тыс. партызан з 5 партыз. брыгад і 3 асобныя атрады *Івянецкага партызанскага злучэння* і частка сіл *Стаўбцоўскага партызанскага злучэння.*

У партыз. зоне аднаўлена Сав. ўлада, функцыі якой ажыццяўлялі партыз. каменданты, былі ліквідаваны ням. маёнткі і адкормачныя пункты, сялянам вернута нарабаваная ў іх маёмасць (жывёла, сельгасінвентар, збожжа). Насельніцтва зоны аказвала партызанам усямерную дапамогу ў барацьбе супраць ням. фаш. захопнікаў. Партызаны праводзілі сярод насельніцтва масава-паліт. і арганізацыйную работу па стварэнні партыз. рэзерваў, абаранялі насельніцтва ад карнікаў. На тэр. зоны базіраваліся *Баранавіцкі падпольны абком КП(б)Б, Баранавіцкае партызанскае злучэнне, Івянецкі падпольны міжрайпартцэнтр, Івянецкі падпольны міжрайцэнтр ЛКСМБ,* Валожынскі, Івянецкі, Мінскі, Стаўбцоўскі падп. РК КП(б)Б і ЛКСМБ; выдаваліся падп. газеты *«Чырвоная звязда», «Молодой мститель», «Народный мститель», «Искра»* і інш. Гітлераўцы неаднаразова спрабавалі ліквідаваць зону.

Бязлітасныя баі з карнікамі па абароне зоны пачаліся ў канцы 1942. У іх вызначыліся атрады 54-ы, імя Варашылава (гл. ў арт. *Партызанская брыгада імя К. Я. Варашылава),* Арлянскі (гл. ў арт. *Партызанская брыгада Ленінская),* 3649-ы (гл. ў арт. *Партызанская брыгада «Перамога»),* якія затрымалі прасоўванне гітлераўцаў спачатку на рубяжах р. Шчара, потым непасрэдна ў перадполлі Налібоцкай пушчы. Стойкай абаронай і імклівымі манеўрамі партызаны сарвалі спробы гітлераўцаў ліквідаваць партыз. зону (гл. *«Балотная ліхаманка», «Гамбург»).* Асабліва цяжкія выпрабаванні выпалі на долю партызан і мясцовага насельніцтва ўлетку 1943 у час адной з найб. буйных карных аперацый *«Герман».* Пад кіраўніцтвам Баранавіцкага падп. абкома і Івянецкага падп. міжрайпартцэнтра загадзя быў распрацаваны план абароны зоны, брыгадам і атрадам вызначаны месцы дыслакацыі гал. і рэзервовых сіл. Тактычнымі прыёмамі барацьбы з намнога большымі сіламі карнікаў былі начныя налёты на размяшчэнні варожых падраздзяленняў і няспынныя адсякаючыя дзеянні буйных засадных груп. На выпадкі поўнай блакады і прачэсвання зоны прадугледжвалася манеўраванне брыгад і атрадаў у месцах дыслакацыі, выхад у новыя раёны, прарыў блакады аб'яднанымі сіламі і адыход па загадзя вызначаным маршруце. Адметнай рысай арганізацыі і вядзення абароны зоны з'яўлялася тое, што партызаны, выкарыстоўваючы ўсе перавагі сваёй тактыкі і геаграфічных умоў, ні разу не пакінулі раёны дыслакацыі і абаранялі насельніцтва ад карнікаў. ЦШПР у радыёграме на імя сакратара Баранавіцкага падп. абкома КП(б)Б адзначаў: «...Ваша бліскучая перамога над ворагам увойдзе ў гісторыю гераічнай барацьбы беларускага народа за свабоду і незалежнасць. Перадайце ўсім партызанам і партызанкам... падзяку за мужны адпор нямецкім катам і забойцам». Партызаны ўтрымлівалі зону да вызвалення Беларусі ў ліп. 1944.

*У. С. Пасэ.*

**ІВЯНЕ́ЦКІ ПАДПО́ЛЬНЫ МІЖРАЙПАРТЦЭ́НТР.** Створаны ЦК КП(б)Б 19.3. 1943. Дзейнічаў з 14.4 да 19.12. 1943 пад кіраўніцтвам *Баранавіцкага падпольнага абкома КП(б)Б.* Узначальваў парт. падполле і партыз. рух на тэр. Валожынскага, Івянецкага, Ляхавіцкага (да жн. 1943), Мірскага і Стаўбцоўскага (да 2.10.1943) р-наў. У кастр. 1943 створаны самастойны *Стаўбцоўскі падпольны міжрайпартцэнтр,* у зону дзейнасці якога ўвайшоў і Мірскі р-н. Накіроўваў дзейнасць *Івянецкага падпольнага міжрайцэнтра ЛКСМБ.* Састаў міжрайпартцэнтра: Р. А. *Сідарок* (кіраўнік), Р. Л. *Васілевіч* (нам. па ваен.-аператыўнай рабоце), Г. В. *Будай* (нам. па парт. падполлю і парт.-масавай рабоце). Базіраваўся ў Івянецка-Налібоцкай пушчы. Ліквідаваны Баранавіцкім падп. абкомам КП(б)Б пасля выканання ўскладзеных на яго функцый па стварэнню і ўмацаванню Валожынскага і Івянецкага падп. райкомаў КП(б)Б, якія сталі непасрэдна падпарадкоўвацца падп. абкому партыі.

*А. М. Літвін.*

**ІВЯНЕ́ЦКІ ПАДПО́ЛЬНЫ МІЖРАЙЦЭ́НТР ЛКСМБ.** Дзейнічаў з 20.5 да 19.12.1943 пад кіраўніцтвам *Баранавіцкага падпольнага абкома ЛКСМБ* і *Івянецкага падпольнага міжрайпартцэнтра.* Узначальваў камсам. падполле на тэр. Валожынскага, Івянецкага, Мірскага (да 2.10.1943), Стаўбцоўскага (да 2.10.1943) р-наў. Кіраўнік міжрайцэнтра ЛКСМБ А. С. Міхайлічэнка (з 1.11.1943 адначасова сакратар Івянецкага падп. РК ЛКСМБ). Базіраваўся ў Івянецкім р-не.

*Р. М. Шавяла.*



П. І. Івашуцін. М. І. Івуценка.

**ІГНАТО́ВІЧ** Фёдар Пятровіч (н. 14.3. 1910, в. Анэліна Талачынскага р-на), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1939. З 1928 рабочы. З 1939 у Чырв. Арміі. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. З лют. 1943 камісар партыз. атрада, у чэрв. 1943— чэрв. 1944— *партызанскай брыгады М. П. Гудкова.* З 1944 на сав. і гасп. рабоце.

**ІГНАЦЕ́НКА** Рыгор Мікалаевіч (15.6. 1906, в. Турцэвічы Калінкавіцкага р-на —14.7.1969), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Пінскай вобл. Чл. КПСС з 1938. З 1940 на парт. рабоце ў Пінскай вобл. З чэрв. 1941 на Зах. фронце, палітрук роты. У партызанах з ліст. 1942: кіраўнік дыверсійнай групы, з сак. 1943 камісар атрада, у жн. 1943— крас. 1944—*партызанскай брыгады імя С. М. Будзённага,* адначасова чл., у сак. 1943— крас. 1944 сакратар Ленінскага падп. РК КП(б)Б. Пасля вайны на парт. і адм.-гасп. рабоце. Канд. у чл. ЦК КПБ у 1949—56.

**ІГНА́ЦЬЕЎ** Міхаіл Купрэевіч (5.12. 1904, б. хутар Юркавічы, Гарадоцкі р-н —6.8.1981), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Вілейскай вобл. Чл. КПСС з 1931. З 1924 на сав. рабоце ў Гарадоцкім р-не. У партызанах з мая 1942: палітрук узвода, з вер. 1942 камісар атрада, у ліп. 1943— ліп. 1944 *партызанскай брыгады «Спартак»,* адначасова чл. Відзаўскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—63 на сав. і гасп. рабоце ў Відзаўскім і Шаркоўшчынскім р-нах. Яго імем названа вуліца ў г. п. Шаркоўшчына.

**ІГНАЦЭ́ВА,** вёска (хутар) на тэр. Шар-

коўшчынскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на ПдУ ад в. Свілы. У ліст. 1942, у час карнай аперацыі «*Нюрнберг*», фашысты загубілі 8 жыхароў, вёску (2 двары) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

М. А. Ізюмаў. Г. П. Ісакаў.





Экспазіцыя, прысвечаная Вялікай Айчыннай вайне, у Іканскім музеі народнай славы.

**ІГУ́МНАЎ** Сяргей Мікітавіч (н. 8.9.1903, с. Цярнова Кашырскага р-на Маскоўскай вобл.), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Мінскай і Магілёўскай абл. Чл. КПСС з 1928. З 1930 на сав. і гасп. рабоце. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. З жн. 1941 кіраўнік групы *Барысаўскага партыйна-патрыятычнага падполля.* У партызанах з крас. 1942: палітрук роты, камісар атрада, у ліст. 1942— маі 1943— *партызанскай брыгады 4-й Клічаўскай.* У 1945—63 на сав., парт. і гасп. рабоце.

**ІДАЛІНА,** вёска на тэр. Лагойскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1,2 км на ПнЗ ад в. Кузевічы Лагазінскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 60 чал. У 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 28 жыхароў, у т. л. 11 дзяцей, вёску (10 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1951 на магіле ахвяр фашызму пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ІЗО́Х** Ігнат Зіноўевіч (24.12.1906, г. Клічаў —9.8.1977), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1930. Скончыў Вышэйшую камуніст. с.-г. школу Беларусі (1936). З 1936 на гасп. і пед. рабоце. У партызанах з ліп. 1941: камандзір, камісар атрада, з ліст. 1942 камісар, у снеж. 1942— маі 1943 камандзір *партызанскай брыгады 2-й Клічаўскай,* у вер. 1943— маі 1944 камандзір *партызанскага палка 277-га,* адначасова ў ліп. 1943 — маі 1944 камандзір *Клічаўскай ваенна-аператыўнай групы,* чл. Клічаўскага падп. РК КП(б)Б. З 1945 на сав. і гасп. рабоце.

**ІЗЮ́МАЎ** Мікалай Андрэевіч (24.12. 1920, г. Аша Чэлябінскай вобл.— 28.6.1944), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1942. Скончыў Ульянаўскае бранятанк. вучылішча (1941). На фронце з кастр. 1941. Удзельнічаў у Маскоўскай, Сталінградскай бітвах. Камандзір танк. батальёна капітан І. вызначыўся ў Бабруйскай аперацыі ў чэрв. 1944. Батальён пад яго камандаваннем каля в. Шчаткава захапіў пераправу цераз Бярэзіну і ва ўпартых баях з перавышаючымі сіламі праціўніка ўтрымаў яе, потым каля в. Баяры захапіў участак шашы Бабруйск — Мінск, што садзейнічала паспяховаму наступленню інш. падраздзяленняў. З 24 да 28.6.1944 экіпаж танка І. знішчыў 7 процітанк. гармат, 3 дзоты, 10 агнявых кропак, каля 250 гітлераўцаў. Загінуў у баі. Пахаваны ў в. Баяры Бабруйскага р-на, дзе яго імем названа вуліца. У яго гонар в. Дурынічы Бабруйскага р-на перайменавана ў Ізюмава.

**ІКАНСКІ МУЗЕ́Й НАРО́ДНАЙ СЛА́ВЫ.** Заснаваны 4.7.1964 на грамадскіх асновах у в. Іканы Барысаўскага р-на, з 1.1.1977 дзяржаўны. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, разгорнута ў зале баявой славы. На стэндах зброя і абмундзіраванне сав. воінаў, знойдзеныя на месцах абарончых баёў 1941, матэрыялы аб першых партыз. атрадах М. Х. *Балана,* А. Я. Васілеўскага, С. Н. Далганава, І. А. *Яраша.* Расказваецца пра работу падп. рэдакцыі і друкарні Барысаўскага падп. гаркома-райкома КП(б)Б, якія дзейнічалі пры партыз. брыгадзе «Дзядзькі Колі», экспануецца калекцыя падп. газет, у т. л. *«Большевистская правда», «Со... ский патриот», «Бальшавіцкая тры... на»* і інш. Экспанаты пра парт... шпіталь, зброевую майстэрню, парт... зан-падрыўнікоў, пра Герояў С... Саюза П. Р. *Лапаціна,* В. Ц. *Абуха...* Б. Л. *Галушкіна,* Ф. Ф. *Азміце...* А. А. Асланава. Расказваецца аб з... чынствах ням.-фаш. захопнікаў у р... не (карта спаленых вёсак, фатагра... злачынстваў). Экспануецца карці... Л. Асядоўскага, В. Стасевіча, М. К... сялёва «Вызваленне». Вакол му... размяшчаецца парк «Вянок слав... закладзены ў 1964 у гонар загіну... шых у гады Вял. Айч. вайны. Н... цэнтр. алеі пастаўлены бюсты Геро... Сав. Саюза Лапаціна, Абуха... Л. А. Голікава, М. І. *Казея,* А. В. К... шавога, Л. І. Чайкінай, Р. Ібарур... сакратара Барысаўскага падп. Р... КП(б) Яраша, кіраўніка міжрайпар... цэнтра Барысаўскай зоны П. А. *Жу...віча,* разведчыцы Т. *Бауэр,* піяне... героя У. Дубініна. На алеі гарадо... герояў у тумбах захоўваецца зям... прывезеная з гарадоў-герояў наш... краіны.

*А. М. Калбас...*

**ІЛЬІ́Н** Іван Гаўрылавіч (н. 19.12.191... с. Калдзіна Фёдараўскага р-на Сар... таўскай вобл.), адзін з кіраўнік... партыз. руху ў Магілёўскай воб... Чл. КПСС з 1940. Скончыў Р... парт. школу пры ЦК КПБ (195... ВПШ пры ЦК КПСС (1959). З 19... на камсам. і гасп. рабоце. У чэр... 1942— жн. 1943 нач. штаба парт... брыгады 8-й Круглянскай, пот... камандзір атрада, у снеж. 1943— чэрв. 1944 *Круглянскай ва...на-аператыўнай групы,* адначасо... чл. Круглянскага падп. РК КП(б)Б. З 1944 на парт., гасп. і прафс. ра... боце.

**ІЛЬІ́НІЧ** Мацвей Ігнатавіч (29.11.189... в. Гняздзілава Докшыцкага р-на — 14.11.1977), адзін з кіраўнікоў пар... падполля і партыз. руху ў Барана... віцкай вобл. Чл. КПСС з 1920. З 192... на парт., пед. і сав. рабоце. У парт... занах з ліст. 1942: кіраўнік дыверсі... най групы, з чэрв. 1943 камісар а... рада, у ліст. 1943— ліп. 1944 каміс... *партызанскай брыгады Першама... скай,* адначасова ў ліп.— снеж. 194... сакратар Гарадзішчанскага, у сне... 1943 — ліп. 1944 — Карэліцкага пад... райкомаў КП(б)Б. Да 1960 на пар... і сав. рабоце.

**ІЛЫНКО́ЎСКІ** Міхаіл Кузьміч (2... 11.1903, в. Дабрынь Ельскага р-на —30.8.1981), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Палескай вобл. Чл. КПС... з 1938. З 1921 на пед. і сав. ра... боце. У партызанах з жн. 1941: камандзір, камісар атрада. У крас... 1943— студз. 1944 сакратар Мазырскага падп. РК КП(б)Б, адначасова ў вер.— снеж. 1943 камісар *партызан... скай брыгады Мазырскай імя Аляксандра Неўскага.* Пасля вайны 1-ы нам. старшыні Палескага, старшыня Пінскага аблвыканкомаў, сакрата...

зідыума ВС СССР камандуючымі франтамі і арміямі, І ступені — Прэзідыумам ВС СССР.

У СССР поўных К. о. С. больш за 2,5 тыс., з іх 65 беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі: Дз. К. Абрамснка, І. І. Акаловіч, У. А. Амельяновіч, А. Я. Андрыенка, М. З. Асмыковіч, П. Ф. Бандарчук, П. Р. Барадаўка, А. М. Белавусаў, Ф. Ц. Бібік, М. Р. Бяляеў, А. К. Васільеў, В. Дз. Вятошкін, П. А. Гупянец, В. В. Гутпік, А. І. Далідовіч, Р. П. Жулега, І. Р. Зайцаў, Ф. П. Занько, А. І. Зосік, М. І. Івуценка, А. Г. Кагуценка, У. Я. Карнеенка, Р. Я. Кароль, А. Я. Кастрама, П. І. Касцюковіч, П. Я. Касянчук, А. А. Клопаў, А. В. Кляцко, Р. Ц. Кротаў, І. К. Купрыенка, К. С. Куркевіч, В. Ф. Ландычэнка, В. П. Ліснеўскі, С. А. Лупікаў, І. Т. Ляскоўскі, П. М. Ляўкоў, У. Р. Маджар, І. Р. Макаранка, А. І. Малевіч, А. К. Марозаў, У. М. Марчанка, Я. Л. Мінкін, М. М. Мінчанкоў, Р. М. Міткевіч, Л. М. Міхіевіч, У. І. Мотуз, Р. Ф. Нагорны, У. М. Пасікаў, М. І. Патаповіч, М. І. Перавознікаў, М. К. Рагоўскі, П. І. Рубіс, П. М. Савуцін, М. Ф. Сафонаў, С. Т. Сотнікаў, М. С. Струк, А. Ф. Сямёнаў, Я. А. Трацякоў, А. А. Філіпенка, Л. С. Хадановіч, І. А. Цімашэнка, М. Р. Ціхановіч, І. С. Шмея, Н. Л. Юшкоўскі, І. П. Янчанка (гл. адпаведныя артыкулы).

**КАВАЛЕЎ** Іван Кірылавіч (падп. псеўданімы Іван Гаўрылавіч, Стрэльскі, Неўскі; 12.6.1906, в. Бабічы Свяцілавіцкага р-на — люты — сак. 1943), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў *Мінскага партыйнага падполля*, сакратар *Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б*. Чл. КПСС з 1930. Скончыў Вышэйшую камуніст. с.-г. школу імя У. І. Леніна ў Мінску (1938), працаваў нам. дырэктара, дырэктарам Заслаўскай МТС, з 1940 сакратаром Заслаўскага РК КП(б)Б. У пачатку вайны па заданню ЦК КП(б)Б пакінуты ў тыле ворага для падпольнай работы. У ліпені 1941 атрымаў ад сакратароў ЦК КП(б)Б інструктаж па стварэнню парт. падполля ў акупіраваным гітлераўцамі Мінску. Удзельнічаў у стварэнні першага партыз. атрада каля Асінторфа, некаторы час быў яго палітруком і камандзірам. У канцы жніўня — пач. верасня 1941 прыбыў у Мінск, устанавіў сувязь са знаёмымі камуністамі і сумесна з імі прыступіў да стварэння гар. падпольнай арг-цыі. Па яго ініцыятыве ў канцы ліст. 1941 адбылася нарада прадстаўнікоў падпольных парт. арг-цый і груп горада, на якой створаны Мінскі падп. гарком КП(б)Б. Ажыццяўляў непасрэднае кіраўніцтва падп. барацьбой патрыётаў у Мінску і разгортваннем партыз. руху ў прыгарадных раёнах. Пасля масавых арыштаў падпольшчыкаў у сак. 1942 гарком КП(б)Б па яго прапанове перагледзеў арганізацыйную структуру парт. падполля, якое стала будавацца па тэрытарыяльна-вытворчым прынцыпе. У горадзе было створана 5 падп. райкомаў партыі, падп. гарком ЛКСМБ, прынята рашэнне аб стварэнні Мінскага сельскага, Смалявіцкага і Рудзенскага падп. райкомаў КП(б)Б, стаў выдавацца друкаваны орган падп. гаркома — газ. *«Звязда»*. Пры ўдзеле падп. гаркома створана больш за 20 партыз. атрадаў і 3 брыгады: «Дзядзькі Колі», «Народныя мсціўцы», «Штурмавая». Арыштаваны гітлераўцамі ў пач. кастр. 1942 разам з іншымі кіраўнікамі парт. падполля, падвяргаўся страшэнным катаванням. Далейшы лёс дакладна не высветлены. Паводле звестак падпольшчыкаў, К. спалены ў Трасцянцы. Яшчэ да арышту і асабліва пасля арышту К. фашысцкія карныя і прапагандысцкія органы з правакацыйнымі мэтамі ўсяляк імкнуліся скампраметаваць падпольны гарком КП(б)Б і яго сакратара. Пад уплывам фашысцкіх інсінуацый К. быў ілжыва абвінавачаны ў здрадзе Радзіме.

*К. І. Дамарад.*

**КАВАЛЕЎ** Іосіф Несцеравіч (6.10. 1893, в. Віркаў Клічаўскага р-на — 13.10.1969), ген.-лейт. войск сувязі (1942). Чл. КПСС з 1926. У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. З 1932 нач. аддзелаў сувязі ваен. акруг. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну нач. войск сувязі Ленінградскага фронту. У 1946—58 на адказных пасадах у Сав. Арміі, нач. Вышэйшых акадэмічных курсаў сувязі.

**КАВАЛЕЎ** Мікалай Кузьміч (жн. 1917, в. Селівонаўка Жлобінскага р-на — 17.3.1945), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1939. Скончыў ваен.-паліт. вучылішча (1941), курсы «Выстрал» (1943). З жн. 1941 на фронце. Удзельнік абароны Масквы, вызвалення Беларусі, Прыбалтыкі. Камандзір стралк. палка падпалкоўнік К. вызначыўся ў баях ва Усх. Прусіі. Пераадолеўшы 270 км, прарваў абарону ворага каля Мазурскіх азёр, нанёс праціўніку вял. страты. 17.3. 1945 полк пад яго камандаваннем на подступах да в. Ленхефен захапіў 6 гармат, 14 кулямётаў, каля 200 гітлераўцаў. Загінуў у гэтым баі. Яго імем названы вуліца і сярэдняя школа ў г. Жлобін.



І. К. Кабушкін. І. Р. Кабякоў. А. Я. Каваленка. К. А. Каваленка. С. А. Каваленка. І. К. Кавалёў.

**КАВАЛЕЎ** Мікіта Рыгоравіч (20.12. 1909, в. Майскае Жлобінскага р-на — 10.5.1978), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1938. У Чырв. Арміі з 1931. Скончыў Ульянаўскае бранятанк. вучылішча (1937), Ленінградскую вышэйшую бранятанк. школу (1953). З 1941 на Зах., Паўн.-Зах., Варонежскім, 1-м і 2-м Укр., Забайкальскім франтах. Камандзір танк. батальёна маёр К. вызначыўся пры вызваленні Кіева. 6.11.1943 батальён у ліку першых уварваўся ў горад. Адбіваючы контратакі ворага, знішчыў 11 танкаў і 2 самаходныя гарматы, 24 палявыя гарматы, 124 кулямёты, 26 аўтамашын, 340 павозак з грузам. Да 1969 у Сав. Арміі, палкоўнік. Жыў і працаваў у Мінску.

**КАВАЛЕЎ** Навум Гаўрылавіч (14.12. 1898, в. Вуглы Шклоўскага р-на — 22.5.1967), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1919. Удзельнік грамадз. вайны. З 1929 на сав. рабоце, у органах НКУС. У партызанах з ліст. 1942: кіраўнік дыверсійнай групы, са студз. 1943 камандзір атрада, у маі 1943— ліп. 1944 — *партызанскай брыгады Першамайскай*, адначасова чл. Карэліцкага падп. РК КП(б)Б. З 1944 на парт., сав. і адм.-гасп. рабоце.

**КАВАЛЕЎ** Павел Рыгоравіч (1905, хутар Мокрая Яльмута Пралетарскага р-на Растоўскай вобл. — 11.11. 1974), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Брэсцкай вобл. Чл КПСС з 1931. З 1929 у органах НКУС. У партызанах з чэрв. 1942: камісар з жн. 1942 *партызанскага атрада імя М. А. Шчорса*, з

крас. 1943 *партызанскага атрада імя С. М. Будзённага,* у снеж. 1943— ліп. 1944 *партызанскай брыгады імя Ф. Э. Дзяржынскага,* адначасова чл. Ганцавіцкага, у чэрв.— ліп. 1944 сакратар Косаўскага падп. райкомаў КП(б)Б. Пасля вайны на парт. і адм.-гасп. рабоце.

**КАВАЛЁЎ** Піліп Іванавіч (27.11.1916, в. Гойкаў Чэрыкаўскага р-на — 17.3.



І. Н. Кавалёў. М. К. Кавалёў. М. Р. Кавалёў. П. І. Кавалёў. Р. С. Кавалёў. А. Г. Кагуценка.

1944), удзельнік партыз. руху ў Гомельскай і Магілёўскай абл. Герой Сав. Саюза (1944). Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. З чэрв. 1941 на фронце, з чэрв. 1942 у тыле ворага ў дыверсійнай групе, з ліп. 1943 камандзір групы падрыўнікоў 255-га партыз. атрада, потым — *Партызанскага палка 255-га.* Падрыхтаваў 13 дыверсійных груп, пусціў пад адхон 19 эшалонаў, падарваў 30 аўтамашын з жывой сілай і тэхнікай ворага. Загінуў у баі каля в. Перунава Кіраўскага р-на. Пахаваны ў в. Баркі Кіраўскага р-на. Яго імем названа вуліца ў г. Чэрыкаў.

**КАВАЛЁЎ** Рыгор Сямёнавіч (8.5.1902, в. Вял. Крушынаўка Рагачоўскага р-на — 18.8.1944), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1925. У 1932—41 старшыня калгаса ў Рагачоўскім р-не. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. У Айч. вайну ў 8-й Рагачоўскай партыз. брыгадзе. З ліп. 1944 на 3-м Бел. фронце. Вызначыўся ў баі каля г. Шаўляй Літоўскай ССР. Каб стрымаць контратаку варожага пях. батальёна, які падтрымлівалі 23 танкі і 9 бронетраспарцёраў, сяржант К. са звязкай ручных гранат кінуўся пад гусеніцы танка. Натхнёныя яго подзвігам байцы адбілі контратаку. Імем К. названы вуліца ў Рагачове, школа ў в. Крушынаўка, дзе ён вучыўся, на будынку школы мемар. дошка.

**КАВАЛІ,** вёска на тэр. Гарадоцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Перад вайной у ёй жылі 42 чал. У ліст. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 28 жыхароў, вёску (12 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**КАГУЦЁНКА** Аляксандр Гаўрылавіч (н. 11.2.1924, в. Акцябрына, Магілёўскі р-н), поўны кавалер ордэна Славы. Скончыў Уральскі політэхн. ін-т (1954). З ліп. 1943 на Паўд.-Зах., 3-м Укр., 1-м Бел. франтах. Камандзір аддзялення аўтаматчыкаў ст. сяржант К. вызначыўся ў баях на тэр. Польшчы і Германіі: 1.8.1944 у ліку першых фарсіраваў Віслу, знішчыў 4 гітлераўцаў; у студз. 1945 у баі каля в. Лінскія Буды першым са сваім аддзяленнем захапіў варожыя траншэі, знішчыў 4 і ўзяў у палон 1 гітлераўца; 29.4.1945 у баях на вуліцах Берліна з групай байцоў авалодаў вузлом супраціўлення праціўніка. Пасля вайны жыве і працуе ў г. Калінінград Маскоўскай вобл.

**КАДА́НЧЫК** Сяргей Мікалаевіч (12.9.1906, в. Майсеевічы Асіповіцкага р-на — 15.9.1943), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1940. У Чырв. Арміі з 1928. Скончыў Кіеўскія аб'яднаныя курсы падрыхтоўкі камандзіраў РСЧА (1932). Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. З чэрв. 1941 на Паўд., Паўд.-Зах., Закаўказскім, Паўн.-Каўказскім франтах. Вызначыўся ў вер. 1943 пры вызваленні Новарасійска. Полк, якім камандаваў падпалкоўнік К., штурмам авалодаў умацаваннямі праціўніка і ўтварыў пралом у яго абароне. Загінуў у гэтым баі. Пахаваны ў брацкай магіле на плошчы Герояў у Новарасійску. Яго імем названы вуліца ў Новарасійску, рыбалоўны траўлер; у в. Майсеевічы на будынку школы, дзе ён вучыўся, мемар. дошка.

**КАЖАДУ́Б** Іван Мікітавіч (н. 8.6.1920, с. Абражыеўка Шосткінскага р-на Сумскай вобл.), маршал авіяцыі (1985), тройчы Герой Сав. Саюза (1944, 1944, 1945). Чл. КПСС з 1943. У Чырв. Арміі з 1940. Скончыў Чугуеўскае ваен. авіяц. вучылішча лётчыкаў (1941), Ваен.-паветр. акадэмію (1949), Ваен. акадэмію Генштаба (1956). З 1941 лётчык-інструктар у Чугуеўскім авіяц. вучылішчы. З сак. 1943 на Варонежскім, Сцяпным, 2-м Укр., 3-м Прыбалт. і 1-м Бел. франтах. Зрабіў 326 баявых вылетаў, збіў 60 самалётаў праціўніка (у т. л. 1 рэактыўны). Пасля вайны на адказных пасадах у ВПС. Дэп. ВС СССР 1946—62. Аўтар кніг «Служу Радзіме» (1950), «Вернасць Айчыне» (1975). Яго імем названы вуліцы ў Магілёве, Рагачове.

**КАЖУ́ШКА** Павел Іванавіч (н. 28.2.1918, с. Міхайлаўка Краснакуцкага р-на Саратаўскай вобл.), удзельнік партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1943. Удзельнік Бабруйскага камуніст. падполля. З сак. 1942 у партыз. атрадзе 752-м (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 1-я Бабруйская*), кіраўнік дыверсійнай групы, якая пусціла пад адхон 27 варожых эшалонаў, знішчыла 10 аўтамашын, 12 чыг. і шашэйных мастоў, вывела са строю шпаларэзны з-д у Бабруйску. У 1943—68 на камсам. і гасп. рабоце.

**КАЗА́К** Іван Пятровіч (15.1.1918, в. Паніжаны Мінскага пав. — 14.2.1989), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1950. Скончыў Рэспубліканскую парт. школу пры ЦК КПБ (1953). З 1937 рабочы Мінскага з-да імя Мяснікова. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У партызанах з вер. 1941: камісар атрада, з ліст. 1942 камісар *партызанскай брыгады імя В. П. Чкалава* Баранавіцкай вобл. Пасля вайны на парт., сав. і гасп. рабоце.

**КАЗАКЕ́ВІЧ** Данііл Васілевіч (н. 16.12.1902, в. Радзеўцы Маладзечанскага р-на), Герой Сав. Саюза (1945), ген.-лейт. (1957). Чл. КПСС з 1925. У Чырв. Арміі з 1920. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1937), Усесаюзны юрыдычны завочны ін-т (1952). У Айч. вайну на фронце з сак. 1943: нач. штаба, камандзір дывізіі. Удзельнік Курскай бітвы, вызвалення Беларусі, Польшчы, баёў у Германіі. У час Бел. аперацыі 1944 дывізія пад яго камандаваннем прарвала абарону праціўніка на ПнУ ад Рагачова, фарсіравала рэкі Друць, Дабасну, Алу і разам з інш. злучэннямі штурмам авалодала Бабруйскам; у вер. 1944 у час прарыву варожай абароны фарсіравала р. Нараў, захапіла плацдарм і адбіла 7 контратак. 49 воінам дывізіі прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1946—59 на кіруючых па-


С. М. Каданчык.


І. М. Кажадуб.


Д. В. Казакевіч.


П. К. Казакевіч.


В. І. Казакоў.


А. А. Казаран.

садах у пагранічных войсках. Дэп. ВС СССР у 1954—58.

**КАЗАКЕ́ВІЧ** Павел Канстанцінавіч (2.10.1904, в. Забашэвічы Барысаўскага р-на — 15.2.1943), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1930. У Чырв. Арміі з 1926. Скончыў Аб'яднаную бел. ваен. школу (1931), Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1939). Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. З чэрв. 1941 на Зах., Паўд.-Зах. франтах. Вызначыўся 12—15.2.1943 у баях над Харкавам. Полк пад яго камандаваннем перакрыў шашу Харкаў — Палтава і адрэзаў ворагу шляхі выхаду, знішчыў больш за 200 аўтамашын і шмат інш. тэхнікі. Загінуў у баі. Пахаваны ў с. Альшаны Дзергачоўскага р-на Харкаўскай вобл., на магіле помнік. У в. Забашэвічы бюст К., на будынку школы, дзе ён вучыўся, мемар. дошка. Імем К. названа вуліца ў Харкаве. У Горкім на абеліску каля Вечнага агню высечана імя героя.

**КАЗАКО́Ў** Васіль Іванавіч (18.7.1898, в. Філіпава Бутурлінскага р-на Горкаўскай вобл.— 25.5.1968), Герой Сав. Саюза (1945), маршал артылерыі (1955). Чл. КПСС з 1932. У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1934). У Айч. вайну з 1941 на Зах., Бранскім, Сталінградскім, Данскім, Цэнтр., Бел. і 1-м Бел. франтах: нач. артылерыі 16-й арміі, камандуючы артылерыяй франтоў. Удзельнік Маскоўскай, Сталінградскай, Курскай бітваў, Бел., Вісла-Одэрскай, Берлінскай аперацый. Пад яго кіраўніцтвам у Бабруйскай аперацыі быў выкарыстаны метад арт. падтрымкі — двайны агнявы вал. Пасля вайны на камандных пасадах у Сав. Арміі. Дэп. ВС СССР у 1946—50. Аўтар кніг «На пераломе» (1962), «Артылерыя, агонь!» (2 выд. 1975).

**КАЗАРА́Н** Андранік Абрамавіч (н. 14.5.1904, г. Баку), ген.-маёр (1943), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1927. У Чырв. Арміі з 1920. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў пях. школу (1924), курсы вышэйшага каманднага саставу пры Ваен. акадэміі імя Фрунзе (1948). У Айч. вайну з 1941 на Паўд.-Зах., Бранскім, Цэнтр., 3-м Бел., 1-м Далёкаўсх. франтах. Вызначыўся ў вер. 1943 у Камарынскім р-не Палескай вобл. Стралковая дывізія пад яго камандаваннем фарсіравала Днянро і захапіла плацдарм, знішчыла шмат тэхнікі і жывой сілы праціўніка, вызваліла першы раённы цэнтр Беларусі — г. п. Камарын (22.9.1943). Да 1958 у Сав. Арміі. Жыве ў Сімферопалі.

**КАЗАЧУ́К** Яўген Іванавіч (1908, г. Хойнікі — 4.8.1943), адзін з кіраўнікоў парт. падполля на тэр. Палескай вобл. Чл. КПСС. З 1939 рэдактар хойніцкай раённай газеты, дырэктар Палескага абл. драмтэатра ў Мазыры. У ліп. 1941 накіраваны ў тыл ворага, арганізаваў і ўзначаліў *Хойніцкае партыйна-камсамольскае падполле*. З чэрв. 1943 палітрук роты асобнага партыз. атрада імя Чапаева Палескай вобл. Загінуў пры выкананні баявога задання.

**КАЗАЧЭ́НКА** Мікалай Міхайлавіч (1.1. 1916, в. Бярозаўка Чэрвеньскага р-на — 21.3.1977), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1944. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1949). Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. З чэрв. 1941 на Зах., Паўд.-Зах., Паўн.-Каўказскім, Сцяпным, 3-м Укр., 1-м Бел. франтах. Удзельнік абароны Беларусі, Масквы. Вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра каля Ніжнедняпроўска. Ноччу 3.10.1943 байцы аддзялення на чале з ст. сяржантам К. пад агнём праціўніка збудавалі прыстань на правым беразе ракі і пераправілі на пароме 1700 воінаў, 60 павозак з боепрыпасамі, 120 коней. Пасля вайны жыў і працаваў у Мінску.

**КАЗЕ́Й** Марат Іванавіч (10.10.1929, в. Станькава Дзяржынскага р-на Мінскай вобл.— 11.5.1944), піянер-партызан. Герой Сав. Саюза (1965). З ліст. 1942 у партыз. атрадзе імя 25-годдзя Кастрычніка, са жн. 1943 разведчык штаба 200-й партыз. брыгады імя К. К. Ракасоўскага Мінскай вобл. У снеж. 1943 здабыў ваен. карты і планы камандавання праціўніка. 11.5.1944 пры выкананні баявога задання каля в. Хароміцкія Уздзенскага р-на К. быў акружаны карнікамі. Адстрэльваўся да апошняга патрона, потым гранатай падарваў сябе і гітлераўцаў, якія наблізіліся да яго. Пахаваны на радзіме, дзе ў 1987 створаны мемарыял. У Мінску К. пастаўлены помнік і 2 бюсты. Яго імем названы вуліцы ў многіх гарадах Беларусі.

**КАЗІНЕ́Ц** Ісай Паўлавіч (падп. псеўд. Слава Юрыгін, Слаўка Пабядзіт; 1910, г. Батумі — 7.5.1942), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў *Мінскага партыйнага падполля*. Герой Сав. Саюза (1965). Чл. КПСС з 1938. Напярэдадні вайны працаваў у Беластоку. У пач. акупацыі Мінска арганізаваў і ўзначаліў падп. парт. групу ў Кастрычніцкім р-не горада. Уваходзіў у *Мінскі падпольны гарком КП(б)Б*, адказваў за сувязь з падпольшчыкамі гета, кіраваўся адпраўкай партызанам папаўнення, зброі, медыкаментаў. Адзін з арганізатараў падп. друкарні, дзе друкаваў падп. лісток *«Вестник Родины»*. 27.3.1942 арыштаваны і пасля катаванняў павешаны. У Мінску яго імем названы плошча, вуліца і 2 завулкі, устаноўлены мемар. дошка на доме, дзе ён жыў; на месцы пакарання смерцю ў Цэнтр. скверы — мемар. знак.

**КАЗЛО́Ў** Аляксей Васілевіч (25.2. 1913, г. п. Лоеў — 6.6.1976), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1942. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40, зрабіў 57 баявых вылетаў. У Вял. Айч. вайну на фронце з 1941. Штурман авіяэскадрыллі дальняй разведкі ст. лейтэнант К. зрабіў 247 баявых вылетаў, збіў 14 варожых самалётаў. 3.3.1944 яго самалёт быў збіты. Пасля ампутацыі ног К. працаваў інструктарам авіяц. вучылішча, з 1947 заг. арганізаванай ім дзіцячай бібліятэкі на радзіме. Яго імем названа вуліца ў Лоеве.

**КАЗЛО́Ў** Арсен Яўхімавіч (23.2.1919, в. Газьба Гарадоцкага р-на — 12.8. 1971), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1944. На фронце з 1941. Вызначыўся пры фарсіраванні Дуная каля г. Харта (Венгрыя). У ноч на

1.12.1944 камандзір разліку дэсантнай лодкі ст. сяржант К. пад агнём пераправіўся цераз раку. Першы высадзіўся на бераг, паранены ўварваўся ў варожыя траншэі, чым садзейнічаў паспяховай высадцы дэсанта. Пасля вайны на гасп. рабоце. Яго імем названы вуліца ў Гарадку і саўгас у Гарадоцкім р-не.

Запаляр'я, Чэхаславакіі, вайны з імперыялістычнай Японіяй. У 1946—65 нач. штаба Прыморскай, Беламорскай, Паўн. ваен. акруг, нач. кафедры, нам. нач. ваен. акадэміі.

**КАЗЛО́Ў** Пётр Міхайлавіч (24.7.1893, в. Залесная Глыбоцкага р-на — 17.4. 1944), ген.-лейт. (1944). Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1917. У Чырв. гвардыі з 1917, потым у Чырв. Арміі. Удзельнік грамадз. вайны. Узнагароджаны ордэнам Чырв.

Варонежскім франтах. Вызначыўся вер. 1943 пры вызваленні Кіеўс вобл. Танкавая рота пад каманда нем лейтэнанта К. 26.9.1943 фа равала Дняпро каля в. Зарубі 28—29.9.1943 каля в. Вялікі Букр адбіла 6 контратак, падбіла 6 каў і самаходных гармат, знішчыла мінамётныя батарэі, 50 станковых лямётаў ворага. Загінуў у баі. імем названа вуліца ў г. п. Кру на радзіме пастаўлены бюст.

М. М. Казачэнка. М. І. Казей. І. П. Казінец. А. В. Казлоў. А. Я. Казлоў. В. І. Казлоў.



**КАЗЛО́Ў** Васіль Іванавіч (18.2.1903, в. Заграддзе Жлобінскага р-на — 2.12.1967), парт. і дзярж. дзеяч БССР, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на Беларусі, Герой Сав. Саюза (1942), ген.-маёр (1943). Чл. КПСС з 1927. Скончыў Камуніст. ун-т Беларусі (1933). У 1928—40 на сав. і парт. рабоце. З 1940 нам. Старшыні СНК БССР. З сак. 1941 сакратар Мінскага абкома КП(б)Б. З ліп. 1941 1-ы сакратар *Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б*, з сак. 1942 і камандзір *Мінскага партызанскага злучэння.* У 1944—48 1-ы сакратар Мінскіх абкома і гаркома КП(б)Б. Старшыня ВС БССР у 1947. З 1948 Старшыня Прэзідыума ВС БССР і нам. Старшыні Прэзідыума ВС СССР. З 1956 канд. у чл., з 1966 чл. ЦК КПСС, з 1949 чл. ЦК КПБ, з 1945 чл. Бюро ЦК КПБ. Дэп. ВС СССР з 1946, ВС БССР з 1947. Яго імем названы вуліца і завод у Мінску, вуліцы ў Гарадку, Жлобіне, Магілёве, Рагачове, Стоўбцах, Чэрыкаве, саўгас і школа ў Жлобінскім р-не; у Салігорску помнік; у Мінску на доме, дзе ён жыў, мемар. дошка; у музеі Вял. Айч. вайны — мемар. зала. Аўтар кн. успамінаў «Верны да канца» (2 выд., 1973); «Людзі асобага складу» (1973).

**КАЗЛО́Ў** Георгій Кірылавіч (1.1.1903, в. Селяхі Брэсцкага р-на — 21.12. 1970), ген.-лейт. (1944). Чл. КПСС з 1920. У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1933). У 1933—39 у БВА. У Айч. вайну на Карэльскім, 2-м Бел. і 1-м Укр. франтах: нач. аддзела штаба арміі, камандзір дывізіі, нач. штаба арміі, камандуючы арміяй. Удзельнік вызвалення Сав.

Сцяга (1923). Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1926). З 1941 на Паўд., Паўд.-Зах., Паўн.-Каўказскім і Цэнтр. франтах: нам. камандуючага, камандуючы арміяй, камандзір корпуса. Вызначыўся ў баях за Днепр на Пн ад Кіева. У вер. 1943 корпус пад камандаваннем ген.-маёра К. з ходу фарсіраваў раку і, захапіўшы плацдарм, забяспечыў пераправу часцей арміі. Смяротна паранены.

**КАЗЛО́ЎСКІ** Васіль Максімавіч (21.4. 1916, Віцебск — 1945), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1943. З 1933 рабочы. У партызанах з крас. 1942: палітрук роты, камісар атрада, у кастр. 1943—ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады 1-й Віцебскай* (2-га складу). З 1944 на сав. рабоце.

**КАЗЛО́ЎСКІ** Ігнат Ігнатавіч (15.2.1917, в. Прусы Капыльскага р-на — 8.6. 1962), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1940. У Чырв. Арміі з 1936. Скончыў Сталінградскае ваен. авіяц. вучылішча лётчыкаў (1939), Ваен.-паветр. акадэмію (1951). З ліст. 1941 на Зах., 1-м і 4-м Укр. франтах: штурман, камандзір эскадрыллі, нам. камандзіра штурмавога авіяпалка. Зрабіў 120 баявых вылетаў, у т. л. 48 у тыл ворага, каб даставіць боепрыпасы акружаным каля Вязьмы сав. воінам і вывезці параненых. Знішчыў 15 танкаў, 80 аўтамашын, 30 чыг. вагонаў, 20 кропак зенітнай артылерыі. Да 1960 у Сав. Арміі, палкоўнік. На радзіме пастаўлены яго бюст.

**КАЗЛО́ЎСКІ** Мікалай Кузьміч (15.12. 1917, в. Гапонавічы Крупскага р-на — 11.10.1943), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. ВЛКСМ. Скончыў танк. вучылішча (1942). З 1942 на Паўд.-Зах.,

**КАЗЛО́ЎЦЫ,** вёска на тэр. Полацкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупан тамі разам з жыхарамі. Знаходзіла за 4 км на Пн ад в. Баркі Азі скага сельсавета. Перад вайной у жылі 134 чал. У ліст. 1942, у карнай аперацыі, фашысты загубі 32 жыхароў, вёску (30 двароў) спа лі. Пасля вайны не адрадзілася. У кавечана ў мемар. комплексе Хатын

**КАЗЛО́ЎШЧЫНА,** гар. пасёлак Дзятлаўскім р-не, цэнтр пасялковаг Савета. За 20 км на Пд ад га пасёлка Дзятлава, за 30 км ад чы ст. Слонім на лініі Баранавічы—Ваўкавыск, на аўтадарозе Дзятлава—Слонім. У 1940—60 цэнт Казлоўшчынскага р-на. З чэрв. 19 акупіравана ням.-фаш. захопніка якія знішчылі ў гар. пасёлку і раё 1582 чал. На тэрыторыі раё дзейнічалі Казлоўшчынскія па райкомы КП(б)Б (вер. 1943—1 7.1944) і ЛКСМБ (чэрв. 1943—15. 1944), партыз. брыгады імя Варашы лава, Ленінская, «Перамога», асобны партыз. атрад імя Калініна (г адпаведныя артыкулы), выдавала падп. газ. *«Народный мститель»* Вызвалена 13.7.1944 часця 129-й стралк. дывізіі (ген.-маёр І. Панчук) 40-га стралк. корпуса 3- арміі 2-га Бел. фронту ў ходзе *Беластоцкай аперацыі 1944.* У К. бра кая магіла сав. воінаў і партыза магіла ахвяр фашызму, на іх пастаў лены помнікі; помнік землякам, які загінулі ў гады Вялікай Айч. вайны

*М. І. Камінск*

**КАЗЛЫ́,** вёска на тэр. Гарадоцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупанта мі разам з жыхарамі. Знаходзілас за 6 км на ПдЗ ад в. Халамер Перад вайной у ёй жыў 41 ча

18.4.1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 41 жыхара, вёску (19 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1964 на месцы вёскі пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**КАЗУ́ЛІЦКІЯ БАІ́ 1943, 1944,** баі паміж партыз. палком 277-м, атрадамі 25-м, 115, 278-м (гл. адпаведныя артыкулы) Клічаўскай ваенна-аператыўнай групы і ням.-фаш. акупантамі ў в. Казулічы Кіраўскага р-на ў кастр. 1943 і чэрв. 1944.

У в. Казулічы гітлераўцы стварылі гарнізон (каля 80 паліцэйскіх, 642-і і дзве роты 161-га паліцэйскіх батальёнаў), які праводзіў карныя аперацыі супраць партызан і цывільнага насельніцтва ў Кіраўскім і Клічаўскім р-нах, ахоўваў шашэйную дарогу Магілёў—Бабруйск і прыкрываў Бабруйск з ПнУ.

Аперацыя па разгрому гарнізона распрацавана і праводзілася пад кіраўніцтвам штаба Клічаўскай ВАГ. Партызаны перакрылі засадамі дарогі на в. Казулічы і 6.10.1943 скрытна сканцэнтраваліся ў лесе на Пн ад в. Кострычы. У ноч на 7 кастр. атрады непрыкметна падышлі да перадавых пастоў гарнізона і пры падтрымцы мінамётных батарэй падняліся ў атаку. 1,5 гадзіны працягваўся вулічны бой. Партызаны падавілі агонь варожых мінамётаў, захапілі арт. гармату. Гітлераўцы паспешліва адышлі. У выніку бою знішчана і захоплена ў палон 169 гітлераўцаў, захоплены штабныя дакументы, шмат узбраення і боепрыпасаў: 1 гармата, 8 мінамётаў, 12 кулямётаў, 11 аўтаматаў, 89 вінтовак, каля 18 тыс. патронаў, а таксама перасоўная радыёстанцыя і абмундзіраванне. Партызаны страцілі 15 чал. параненымі і забітымі.

У 1-й палове чэрв. 1944 партызаны 277-га палка ў другі раз разграмілі гарнізон у в. Казулічы. Кіраваў боем камандзір палка М. П. Каканпаў. Ноччу партызаны імкліва перададолелі ўмацаванні гітлераўцаў і нечакана для ворага ўварваліся ў гарнізон. За некалькі гадзін начнога бою нар. мсціўцы знішчылі больш за 150 салдат праціўніка, 5 узялі ў палон, узарвалі 2 дзоты, 4 аўтамашыны, ружэйна-рамонтную майстэрню, 4 склады, захапілі 3 мінамёты і 80 адзінак стралк. зброі. *У. С. Пасэ.*

**КАЗЯ́НСКІЯ БАІ́ 1942,** баі паміж партыз. атрадам «Спартак» (гл. *Партызанская брыгада «Спартак»*) і ням.-фаш. захопнікамі ў в. Казяны Відзаўскага р-на ў вер. і ліст. 1942.

15.9.1942 жыхары навакольных вёсак папярэдзілі партызан, што гітлераўцы накіравалі ў в. Казяны карны атрад (600 чал.) для знішчэння партыз. атрада «Спартак». Партызаны выставілі насустрач карнікам засады па 8—10 чал. ва ўсіх месцах магчымага паяўлення праціўніка.

Каля в. Баравыя раптоўным агнём нар. мсціўцы прымусілі карнікаў уцякаць, падбілі і спалілі 2 варожыя аўтамашыны, захапілі 30 веласіпедаў і шмат верхняга абмундзіравання. Праследуючы карнікаў, уступілі ў Казяны, дзе спалілі будынак паліцыі і забілі некалькі паліцэйскіх. Партызаны раздалі насельніцтву 30 т збожжа, якое акупанты нарыхтавалі, паведамілі аб становішчы на франтах.

3.11.1942 гітлераўцы накіравалі ў Казяны 180 салдат і афіцэраў для аднаўлення там гарнізона. Камандаванне атрада «Спартак» атрымала ад сувязных і падпольшчыкаў звесткі пра колькасць і ўзбраенне праціўніка і вырашыла ў тую ж ноч разграміць гарнізон, каб не даць ворагу ўмацавацца.

У ноч на 4.11.1942 партызаны зрабілі раптоўны налёт на Казяны. У выніку 8-гадзіннага бою забіта каля 50 гітлераўцаў, 13 захоплены ў палон. Партызаны захапілі 30 вінтовак і 19 скрынак патронаў. У баі загінулі 2 партызаны і 4 паранены. Гарнізон у в. Казяны ням.-фаш. акупанты ў далейшым не аднаўлялі.

*Р. А. Чарнаглазава, М. Ф. Шумейка.*

**КАЗЯ́ТНІКАЎ** Сяргей Піліпавіч (1904, в. Берлеж Пухавіцкага р-на — 30.7.1943), удзельнік партыз. руху ў Мінскай вобл. Мінёр дыверсійнай групы атрада імя Калініна 1-й Мінскай партыз. брыгады. 30.7.1943 на чыгунцы Мінск — Бабруйск, якая ахоўвалася ўзмоцненымі варожымі патрулямі, на ўчастку Блужа — Талька пры набліжэнні эшалона разам з І. С. Чачэрыным узарваў міну, знішчыў 9 вагонаў з жывой сілай праціўніка і загінуў сам. Пахаваны на ст. Блужа Пухавіцкага р-на.

**КАЛАДЗІШЧА́НСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з ліп. 1941 да ліп. 1944 у Каладзішчанскім сельсавеце Мінскага р-на пад кіраўніцтвам *Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б* і Мінскага сельскага падп. РК КП(б)Б (з кастр. 1942). Падпольныя групы пачалі стварацца летам 1941. У ліп. на ст. Калодзішчы створана Чыгуначная (пазней «Удар») група на чале з камуністам М. М. Афанасьевым і камсамольцам С. Э. Эрдманам. У групу ўваходзілі: І. С. Бакуновіч, У. К. Глазуноў, Н. К. Ермалаева, М. М. Заплацінскі, І. В. Іпатаў і інш. У кастр. створана група ў пас. Калодзішчы на чале з А. Я. Радзюк і А. С. Старасцінай; у яе ўвайшлі: Л. І. Баршчэўская, З. І. Завістовіч, А. Дз. Каляда, І. А. Курловіч, К. Р. Леснічова і інш. У канцы 1941 узнікла падп. група з тэхн. работнікаў ням. лазарэта на чале з Л. М. Сакаловай. У складзе групы: А. А. Лайкова, І. М. Кавалёў, Л. М. Чарлова. Вясной 1942 канчаткова афармілася маладзёжная група, якую ўзначалілі камсамольцы М. І. Каласоўскі і В. Л. Панасюк. Групу ў вёсках Старына і Вадапой узначальваў Я. І. Міранкоў. Да канца 1942 падполле налічвала 70 чал., 5 груп, якія восенню 1941 аб'яднала і ўзначаліла чл. *Мінскага партыйнага падполля* М. Ф. Малаковіч.

Падпольшчыкі вялі паліт. агітацыю, мелі 2 радыёпрыёмнікі, прымалі і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, падп. газ. *«Звязда»*, лістоўкі, зрывалі мерапрыемствы гітлераўцаў. Трымалі сувязь з партыз. брыгадамі «Разгром», «Дзядзькі Колі», імя Шчорса і інш., перадалі ім 5 мінамётаў, 10 кулямётаў, 15 рэвальвераў, каля 200 вінтовак, сотні мін і гранат, дзесяткі тысяч патронаў, 1000 камплектаў амуніцыі з армейскіх складоў, пакінутых сав. войскамі ў 1941, медыкаменты. бланкі ням. дакументаў, паведамлялі разведданыя аб гарнізонах, ваен. аб'ектах праціўніка, аб дыслакацыі і перамяшчэнні варожых войск. Патрыёты арганізавалі ўцёкі з лагераў смерці і перапраўлялі да партызан больш за 400 сав. ваеннапалонных і мясцовых жыхароў. Паспяхова здзейснілі распрацаваны план пераходу на бок партызан ням. афіцэра сувязі ВПС з каштоўнымі дакументамі. Разам з партызанамі зрабілі некалькі дыверсій на чыгунцы. На будынках вакзала і школы ў Калодзішчах у памяць аб дзейнасці парт.-камсам. падполля ў 1975 устаноўлены мемар. дошкі.

У барацьбе з ням.-фаш. акупантамі загінулі: Л. І. Баршчэўская, З. І. Завістовіч, М. Ф. Малаковіч, А. Я. Радзюк, Г. П. Сасункевіч, Г. Э. Эрдман, Ж. Ф. Эрдман, Э. І. Эрдман.

*Л. В. Аржаева, В. А. Каструкова.*



П. М. Казлоў. І. І. Казлоўскі.

**КАЛАМО́ЕЦ** Андрэй Піліпавіч (н. 17.7.1923, г. п. Успенка Лутугінскага р-на Варашылаўградскай вобл), Герой Сав. Саюза (1944), ген.-маёр авіяцыі (1972). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Варашылаўградскую ваен. авіяц. школу пілотаў (1943), Ваен.-паветр. акадэмію (1953). На фронце з сак. 1943. Нам. камандзіра эскадрыллі штурмавога авіяпалка маёр К. зрабіў 171 баявы вылет. Удзельнік вызвалення Оршы, Віцебска, Барысава, Мінска, Гродна. Пры ліквідацыі *мінскага «катла»* група самалётаў пад яго камандаваннем знішчыла 60 аўтамашын, 3 бензацыстэрны, 3 склады з боепрыпасамі, шмат жывой сілы праціўніка. Да 1983 у Сав. Арміі.

**КАЛАНІ́ЦЫ,** вёска на тэр. Мінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася ў Гатовінскім (з 1974 Юзуфаўскім)

контратак праціўніка. Да 1972 у Сав. Арміі.

**КАЛЕ́СНІКАЎ** Пімен Рыгоравіч (н. 24.7.1906, г. Нікалаеў), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1931. Скончыў ваенна-тэарэтычную школу лётчыкаў (1933), Арэнбургскую ваен. авіяц. школу лётчыкаў (1934). У Чырв. Арміі з 1931. На фронце з 1941. Старшы штурман штурмавой авіядывізіі маёр К. вызначыўся пры вызваленні Рагачова, Бабруйска, Мінска, Слоніма, ліквідацыі груповак праціўніка ў бабруйскім «катле». Эскадрылля пад яго камандаваннем у час прарыву глыбокаэшаланіраванай абароны праціўніка на тэр. Беларусі зрабіла 300 баявых вылетаў, у т. л. К.— 22 вылеты. За гады вайны К. зрабіў 104 вылеты, з іх 20 начных. Да 1957 служыў у Сав. Арміі, палкоўнік. Жыве ў Мінску.

**КАЛІ́НІН** Пётр Захаравіч (25.1.1902, б. хутар Альховікі, Шумілінскі р-н — 12.12.1966), парт. і дзярж. дзеяч БССР, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на Беларусі. Чл. КПСС з 1928. Скончыў Рэспубліканскую школу прапагандыстаў пры ЦК КП(б)Б (1937), Вышэйшую школу парт. арганізатараў пры ЦК ВКП(б) (1941). У 1938 у апараце ЦК КП(б)Б, з 1939 нам. наркома земляробства БССР, 1-ы сакратар Вілейскага абкома КП(б)Б. У гады вайны 2-і сакратар ЦК КП(б)Б, чл. ваен. савета 21-й арміі, нам. нач. штаба партыз. руху пры ваен. савеце Зах. фронту; з вер. 1942 нач. *Беларускага штаба партызанскага руху.* З 1944 1-ы сакратар Гродзенскага абкома КП(б)Б; з 1948 нам. Старшыні СМ БССР. З 1951 міністр саўгасаў, дарожнай і трансп. гаспадаркі, хлебапрадуктаў БССР. Чл. ЦК КПБ у 1940—52, 1956—60. Дэп. ВС СССР у 1946—58, ВС БССР у 1938—55, 1959—63. Яго імя прысвоена школе ў в. Ляскавічы Шумілінскага р-на, Скідзельскаму цукроваму камбінату. У школе № 5 Гродна музей К. Аўтар кн. «Партызанская рэспубліка» (3 выд. 1973).

**КАЛІ́НІНСКАЕ КАМСАМО́ЛЬСКА-МАЛАДЗЕЖНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з ліст. 1941 да чэрв. 1942 у в. Калініна Буда-Кашалёўскага р-на. Кіраўнікі: І. Ф. Канцавой і Л. М. Кавальскі.

Падпольшчыкі прымалі па радыё і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, дапамагалі параненым чырвонаармейцам, трымалі сувязь з мясцовым партыз. атрадам, мелі кулямёт, 10 вінтовак, боепрыпасы. Прымалі ўдзел у дыверсіях на Гомельскім паравозарамонтным з-дзе і чыг. вузле.

У чэрв. 1942 пры спробе падарваць варожы эшалон з жывой сілай падпольшчыкі арыштаваны. А. С. Кабкоў, Л. М. Кавальскі, І. Ф. Канцавой, І. Х. Сіўцоў павешаны, М. А. Гладуноў, А. Ф. Губанаў, В. Н. Капралаў, А. П. Сяргеенка, А. С. Скарына, П. Т. Хамянкова, Р. Л. Цурбанаў, Л. Я. Шапоцька закатаваны ў гомельскай турме. *А. Б. Рогаў.*

**КАЛІ́НІНСКІ ФРОНТ,** аператыўна-стратэгічнае аб'яднанне войск Чырв. Арміі на зах. напрамку ў 1941—43.

Створаны 17.10.1941 з войск правага крыла *Заходняга фронту* (22-й, 29, 30, 31-й армій) для прыкрыцця Масквы з ПнЗ. Пасля ў склад фронту ў розны час уваходзілі 20-я, 39, 41, 43, 58, 3-я ўдарная, 4-я ўдарная і 3-я паветр. арміі.

Войскі фронту вялі абарончыя баі пад Масквой (кастр.— снеж. 1941), правялі Калінінскую (снеж. 1941— студз. 1942), Сычоўска-Вяземскую (студз. 1942) аперацыі. У час Тарапецка-Холмскай аперацыі (студз.— люты 1942) 4-я ўдарная армія (ген.-палк. А. І. Яроменка) наступала на Тарапец — Веліж, 21.1.1942 узяла Тарапец і вяла далейшае наступленне на віцебскім напрамку ў глыбокім тыле групы армій «Цэнтр». Фаш. камандаванне перакінула сюды з Зах. Еўропы 4 пях. дывізіі і ў пач. лютага 1942 спыніла наступленне сав. войск на Віцебск. У выніку баёў у раёне Сураж — Веліж утварыліся т. зв. *Віцебскія «вароты».* У далейшым войскі фронту ўдзельнічалі ў Ржэўска-Вяземскай (сак.— крас. 1943) і Смаленскай (жн.— кастр. 1943) аперацыях. У выніку Невельскай аперацыі 1943 войскі фронту выйшлі на ўсх. граніцы БССР. У пачатку кастр. 1943 39-я і 43-я арміі выйшлі на тэр. Беларусі і пачалі баі за яе вызваленне. 8.10.1943 у ходзе наступлення на віцебскім напрамку войскі 39-й арміі і рухомай механіз. групы фронту вызвалілі г. п. Лёзна. Гэта быў першы раённы цэнтр вобласці, вызвалены ад фаш. акупантаў. 20.10.1943 К. ф. перайменаваны ў *Прыбалтыйскі фронт 1-ы.*

Камандуючыя: ген.-палк. І. С. *Конеў* (17.10.1941—26.8.1942), ген.-лейт., з 18.11. 1942 ген.-палк. М. А. Пуркаеў (з жн. 1942 да 25.4.1943), ген.-палк., з 27.8.1943 ген. арміі А. І. Яроменка (да 20.10.1943). Член ваен. савета карпусны камісар, з 6.12.1942 ген. лейт. Дз. С. Лявонаў (кастр. 1941 — кастр. 1943). Нач. штаба: ген.-маёр І. І. *Іваноў* (кастр.— ліст. 1941), ген.-маёр Я. П. Жураўлёў (ліст. 1941), палк. А. А. Кацнельсон (ліст.—снеж. 1941), ген.-маёр, з 30.5.1942 ген.-лейт. М. В. Захараў (студз. 1942— крас. 1943), ген.-лейт. У. В. Курасаў (крас.—кастр. 1943).

*М. І. Камінскі.*

**КАЛІ́НКАВІЦКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з вер. 1941 да ліст. 1943 у г. Калінкавічы пад кіраўніцтвам *Палескага падпольнага абкома КП(б)Б* (з лют. 1943), *Калінкавіцкага падпольнага гаркома КП(б)Б* (з жн. 1943), Калінкавіцкага падп. РК КП(б)Б (з мая 1943). Камуністы П. С. Ануфрыеў і В. І. Баравік, пакінутыя ў горадзе для арганізацыі падп. барацьбы, у вер. 1941 стварылі падп. групу чыгуначнікаў у складзе Ануфрыева (кіраўнік), А. І. Баравіка, В. І. Баравіка, І. В. Змушкі, якая вырасла ў арг-цыю з 37 чал. Адначасова пачалі дзейнічаць група камуніста К. М. Бакуна, што стала ядром партыз. атрада імя Варашылава (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 99-я Калінкавіцкая*), і падп. камсам.-маладзёжная арг-цыя «Смугнар» («Смерць прыгнятальнікам народа») у складзе 10 чал. Кіраўнік групы К. Ф. Ярмілаў,


В. Ф. Каленнікаў. В. М. Калеснікаў.

члены М. П. Змушка, І. А. Корбаль, Л. А. Лабанаў, В. Р. Сякач, В. А. Таларай, С. С. Шаўчэнка, П. М. Яроменка і інш. У жн. 1942 фашысты раскрылі арг-цыю і пасля катаванняў расстралялі амаль усіх патрыётаў. З вер. 1942 дзейнічала камсам.-маладзёжная арг-цыя з 11 чал. на чале з М. М. Судасам.

Падпольшчыкі Калінкавіч распаўсюджвалі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, газеты, здабывалі для партызан зброю, боепрыпасы, харчы, адзенне, медыкаменты, разведданыя, вялі прапаганду сярод салдат варожых фарміраванняў. Рабілі дыверсіі на чыг. вузле і прамысловых прадпрыемствах, вывелі са строю электрастанцыю, разгрузачна-пагрузачную рампу і інш. Смугнараўцы правялі рэйд па вёсках Палесся, разграмілі шэраг паліцэйскіх участкаў, у чэрв. 1942 знішчылі чыг. мост-пуцеправод; рух пяздоў быў спынены на 36 гадзін. У жн. 1943 У. К. Палякоў і У. Р. Ражко вывелі са станцыі 3 паравозы і пусцілі іх пад адхон. У ліп.—жн. 1943 І. В. Змушка і А. І. Баравік пад кіраўніцтвам В. І. Баравіка арганізавалі крушэнне 2 воінскіх эшалонаў. І. А. Змушка правёў крушэнне эшалона на перагоне Мазыр — Казекі. У вер. 1943 І. І. Отчык, А. І. Булатоўскі і Г. М. Лоеўская ўзарвалі штабель бочак з бензінам і авіяцыйным маслам; пажар, які працягваўся 2 сутак, знішчыў склады з харчаваннем і ваеннай маёмасцю. У 1942—43 многія падпольшчыкі пайшлі ў партызаны.

У барацьбе з ворагам загінулі М. Дабранская, П. Дулуб, М. С. Дзьячэнка, П. М. Яроменка, К. Ф. Ярмілаў, А. і М. П. Змушкі, А. Казанкоў, С. Л. Каваленка, М. А. Конаш, І. А. Корбаль, А. А. і Г. М. Лоеўскія, Л. С. Мацвееў, І. Н. Рагальскі, В. Р. Сякач, В. Такарскі, М. В. Ткач, С. С. Шаўчэнка, В. С.

корпуса, 356-й стралк. дывізіі (ген.-маёр М. Р. Макараў), 68-й асобнай танк. брыгады (падпалк. Р. А. Цімчанка), 10-й пушачнай арт. брыгады (ген.-маёр А. І. Бруханаў) і 118-й цяжкай гаўбічнай арт. брыгады (палк. М. С. Акімушкін) 6-й арт. дывізіі прарыву 61-й арміі пры падтрымцы 241-й (палк. І. Р. Курыленка) і 301-й (палк. Ф. М. Федарэнка) бамбардзіровачных авіяц. дывізій 3-га бамбардзіровачнага корпуса і часткі сіл 282-й знішчальнай авіяц. дывізіі (падпалк. Ю. М. Беркаль), 6-га мяшанага авіяц. корпуса і 234-й знішчальнай авіяц. дывізіі (палк. Я. З. Татанашвілі) 16-й паветр. арміі Бел. фронту ў ходзе *Калінкавіцка-Мазырскай аперацыі 1944*. Загадам ВГК прысвоены ганаровыя найменні «Калінкавіцкіх» часцям і злучэнням фронту (гл. *Калінкавіцкія вайсковыя злучэнні і часці*). У К. брацкія магілы сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі; помнік Вызвалення — танк Т-34 на п'едэстале — у гонар воінаў, якія вызвалілі горад; мемар. дошкі ў гонар падпольшчыкаў на доме, дзе была іх явачная кватэра, у гонар падп. камсамольска-маладзёжнай арг-цыі «Смерць прыгнятальнікам народа» на будынках СШ № 4 і чыг. вакзала.

*М. І. Камінскі.*

**КАЛІНКІН** Міхаіл Герасімавіч (16.4.1916, Петраград —22.11.1943), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1940. У Айч. вайну на фронце з 1941. Камандзір асобнай стралк. роты капітан К. вызначыўся пры вызваленні Кармянскага р-на. 22.11.1943 каля в. Студзянец рота на чале з К. уварвалася ў траншэі і выбіла з іх праціўніка, аўтаматным агнём і гранатамі К. знішчыў 12 гітлераўцаў. Каб спыніць кулямётны агонь варожага дзота, паранены К. закрыў амбразуру сваім целам. Натхнёныя яго подзвігам, байцы захапілі важны плацдарм. Пахаваны ў в. Касцюкоўка Кармянскага р-на. Яго імем названы вуліцы ў г. п. Карма і в. Ліцвінавічы Кармянскага р-на. На месцы бою каля в. Касцюкоўка, на беразе р. Сож, насыпаны курган Славы, каля падножжа якога мемар. пліта з апісаннем подзвігу К.

**КАЛІНКОЎСКІ** Сцяпан Антонавіч (1918, в. Даколь Глускага р-на — 22.2.1945), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС. З 1941 на Паўн.-Зах., 1-м Укр., 1-м Бел. франтах. Механік-вадзіцель танка ст. сяржант К. вызначыўся пры вызваленні Польшчы. Пры наступленні зімой 1945 у складзе экіпажа знішчыў 2 варожыя кулямётныя батарэі, 120 павозак і 11 аўтамашын з боепрыпасамі, многа жывой сілы праціўніка. 22.1.1945 у час разведкі ўварваўся ў населены пункт Кольмар, перарэзаў пуць варожаму чыг. эшалону і захапіў склады. 23.1.1945 авалодаў пераправай цераз р. Нотаць і ўтрымліваў яе да падыходу падмацавання. Загінуў у баі. Навечна занесены ў спісы вайск. часці. Яго імем названа вуліца ў г. п. Глуск.

**КАЛМЫКО́Ў** Аляксей Сяргеевіч (6.6.1921, с. Пярво Касімаўскага р-на Разанскай вобл.— 10.3.1985), Герой Сав. Саюза (1943), ген.-маёр артылерыі (1967). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Падольскае арт. вучылішча (1941), Ваен. акадэмію імя Дзяржынскага (1950). З 1941 на Зах., Данскім, Цэнтр., Бел., 1-м і 2-м Бел. франтах. Вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра на Пд ад г. п. Лоеў. 15.10.1943, забяспечваючы пераправу войск, арт. дывізіён пад камандаваннем капітана К. падавіў 40 агнявых кропак, знішчыў 4 батарэі, адбіў 4 контратакі праціўніка, чым садзейнічаў вызваленню в. Шчытцы Лоеўскага р-на. Да 1976 у Сав. Арміі.

**КАЛПАКЧЫ́** Уладзімір Якаўлевіч (7.9.1899, Кіеў — 17.5.1961), Герой Сав. Саюза (1945), ген. арміі (1961). Чл. КПСС з 1918. У Чырв. гвардыі з 1917, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1928). У 1936 нам. нач. штаба БВА. Удзельнік нац.-рэв. вайны ў Іспаніі 1936—39. З 1941 на Паўд., Бранскім, Паўд.-Зах., Калінінскім, Сталінградскім, Данскім, Цэнтр., Бел., 2-м і 1-м Бел. франтах: нач. штаба арміі, камандуючы арміямі. 63-я армія пад яго камандаваннем удзельнічала ў *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943*. У 1945—56 камандуючы арміяй, ваен. акругай, з 1956 у Цэнтр. апараце Міністэрства абароны СССР. Загінуў у авіякатастрофе пры выкананні службовых абавязкаў.

**КАЛЮ́ТЫ,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 5,5 км на ПнЗ ад в. Сар'я. Перад вайной у ёй жылі 83 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі «*Зімовае чараўніцтва*», фашысты загубілі 64 жыхароў, вёску (17 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1982 на месцы вёскі насыпаны курган, на яго вяршыні пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь*.

**КАЛЯДА́** Анатоль Мацвеевіч (н. 13.3.1905, в. Шышчыцы Слуцкага р-на), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1932. З 1931 на сав. рабоце ў Грэскім р-не. З чэрв. 1941 у Чырв. Арміі. У партызанах з жн. 1942: камандзір аддзялення, узвода, з лют. 1943 камісар атрада, у вер. 1943— чэрв. 1944 камандзір *партызанскай брыгады 225-й імя А. В. Суворава*, адначасова чл. Грэскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—79 на сав. і адм.-гасп. рабоце.

**КАЛЯ́ДЗІН** Віктар Іванавіч (н. 2.6.1922, г. Кіраўск Варашылаўградскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1945), ген.-маёр авіяцыі (1963). Заслужаны ваен. лётчык СССР (1966). Чл. КПСС з 1942. У Чырв. Арміі з 1938. Скончыў Варашылаўградскую ваен. авіяц. школу пілотаў (1941), Ваен. акадэмію Генштаба (1961). З сак. 1942 на Паўн.-Зах., 1-м Прыбалт., 3-м Бел. франтах. Вызначыўся ў Віцебска-Аршанскай і Полацкай аперацыях. З 22.6 да 18.9.1944 зрабіў 85 баявых вылетаў, удзельнічаў у 17 паветр. баях, збіў 9 самалётаў праціўніка. Усяго за гады вайны зрабіў 685 баявых вылетаў, збіў 16 самалётаў. Да 1971 у Сав. Арміі.

У. Я. Калпакчы. Г. В. Камароў.



**КАМАРО́Ў** Георгій Восіпавіч (13.3.1905, в. Платцоўка Екацярынаўскага р-на Саратаўскай вобл.—21.9.1973), ген.-маёр авіяцыі (1944), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1938. У Чырв. Арміі з 1925. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1939), Вышэйшыя акадэмічныя курсы пры Ваен. акадэміі Генштаба (1953). На фронце з чэрв. 1941. Камандзір штурмавой авіядывізіі К. удзельнічаў у баях за вызваленне Беларусі. За 1944 авіядывізія пад яго камандаваннем зрабіла 6497 баявых вылетаў, удзельнічала ў Мазырска-Калінкавіцкай, Рагачоўска-Бабруйскай, Мінскай, Баранавіцка-Слонімскай і Люблін-Брэсцкай аперацыях. К. асабіста зрабіў 22 баявыя вылеты на штурмоўку жывой сілы і тэхнікі праціўніка. Да 1959 у ВПС.

**КАМАРЫ́Н,** гар. пасёлак у Брагінскім р-не, прыстань на р. Дняпро. За 52 км на Пд ад Брагіна, 9 км ад чыг. ст. Ёлча на лініі Чарнігаў — Оўруч, аўтадарогай звязаны з Брагінам. У 1926—62 цэнтр Камарынскага р-на. 28.8.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў К. і раёне 1064 чал., у т. л. ў Камарыне 98 чал. На тэр. раёне дзейнічалі Камарынскі падп. РК КП(б)Б (6.9 — 22.9.1943), асобныя партыз. атрады імя Варашылава і імя Катоўскага (гл. адпаведныя артыкулы). Вызвалены 23.9.1943 войскамі 13-й арміі (ген.-лейт. М. П. Пухаў) Цэнтр. фронту ў час правядзення *Чарнігаўска-Пры-*

віч з Асіповіцкай ваенна-аператыўнай групы, Д. Вярэка з 208-га партыз. палка імя Сталіна. *М. Гойшык* з партыз. брыгады імя Дзяржынскага Брэсцкай вобл., С. П. *Казятнікаў* і І. Чачэрын з 1-й Мінскай партыз. брыгады. Па прыкладу снайпераў-франтавікоў камсам. арг-цыі Мінскай, Пінскай, Палескай і Гомельскай абл. у канцы 1942 стваралі «паляўнічыя» групы (3—5 чал.), якія з засад знішчалі акупантаў. У 1943 гэты рух набыў масавы характар. Асабістыя рахункі баявых спраў маладых партызан вяліся ва ўсіх падраздзяленнях.

Ва ўнутрысаюзным жыцці камсам. арг-цыі партыз. фарміраванняў захоўвалі выбарнасць к-таў і групоргаў, рэгулярна праводзілі камсам. сходы, дзе заслухоўвалі справаздачы, абмяркоўвалі пытанні баявой дзейнасці, жыцця і быту камсамольцаў, чыталі лекцыі і даклады, разбіралі баявыя аперацыі. З восені 1942 праводзіліся міжбрыгадныя і раённыя камсам. канферэнцыі, раённыя і абл. нарады кіруючых камсам. работнікаў, актыву. Падпольныя абласныя, міжраённыя, гар. к-ты (цэнтры) ЛКСМБ парт. органаў. Камсамольскія к-ты, як і партыйныя, за невялікім выключэннем, базіраваліся ў партыз. фарміраваннях пад узброснай аховай партызан. У 1943—44 камсам. падп. органы выдавалі маладзёжныя газеты «*Молодёжная правда*», «*Молодёжь Белоруссии в борьбе за Родину*», «*Молодой мститель*», «*Молодой партизан*», «*Партизан-комсомолец*», «*Сталинская молодёжь*», «*Сталинское племя*», «*Чырвоная змена*». У партыз. падраздзяленнях распаўсюджанай формай рукапіснага друку былі *баявыя лісткі*, насценныя газеты, *рукапісныя часопісы* (гл. таксама *Друк падпольны*).

Падп. тэрытарыяльныя камсам. арг-цыі дзейнічалі ва ўсіх гарадах і многіх інш. населеных пунктах. Самым баявым і шматлікім было *Мінскае камсамольска-маладзёжнае падполле*, якое налічвала каля 70 арг-цый і груп. У Гомелі і прыгарадах пад кіраўніцтвам падп. гаркома ЛКСМБ дзейнічала больш за 20 камсам. арг-цый і груп (*гл. Гомельскае камсамольска-маладзёжнае падполле*). Мужна змагаліся супраць акупантаў Азяраўская, Асінторфская,



Група партыйных работнікаў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Беларусі.
Злева направа: сядзяць В. І. Казлоў, П. К. Панамарэнка, Ф. І. Паўлоўскі, В. З. Корж; стаяць Р. Н. Мачульскі, П. З. Калінін, П. П. Капуста, І. Л. Сацункевіч, А. Г. Бондар.

назначаліся вышэйстаячымі камсам. або парт. органамі, якія падбіралі і зацвярджалі іх склады, накіроўвалі дзейнасць, вызначалі задачы. Першыя сакратары падп. абкомаў ЛКСМБ — камуністы, як правіла, з'яўляліся членамі падп. абкомаў КП(б)Б. Многія сакратары падп. міжрайкомаў, гаркомаў і райкомаў камсамола ўваходзілі ў склад адпаведных падп.

Бараўлянская, Брэсцкая, Возерская, Калінінская, Клімавіцкая, Мікалаевіцкая, Мірская, Нізянская, Обальская, Прошкаўская, Скідзельская, Тураўская, Турнаеўская (гл. адпаведныя артыкулы) і інш. падп. камсам.-маладзёжныя арг-цыі; камсамольцы і моладзь Асіповіч, Бабруйска, Баранавіч, Барысава, Віцебска, Вялікага Стахава, Горак, Гродна, Грэска, Дзяржынска, Ельска, Жлобіна, Жыткавіч, Калодзішчаў, Круглага, Ле... ля, Ліды, Магілёва, Мазыра, Ор... Пінска, Полацка, Рагачова, Лепе... скага, Расонскага, Ушацкага р-на... інш. у складзе парт.-камсам. і ан... фаш. падполля. У 1943 тэрытарыя... ныя падп. арг-цыі налічвалі каля ... тыс. чал.

Маладыя падпольшчыкі рабілі с... дыверсій, выводзілі са строю васн. т... ніку ворага, абсталяванне працуючых ... васн. патрэбы прадпрыемстваў, пар... зы, вагоны, сродкі сувязі, масты. ... гуначныя збудаванні, інш. аб'екты ... ціўніка, вялі разведку, здабывалі і пе... праўлялі партызанам зброю, боепрыпа... медыкаменты і інш. Яны шмат зрабілі ... выратавання насельніцтва, асабліва ... цей, ад знішчэння і вывазу ў Ге... манію. У партыз. зонах, цывільных ла... рах, дзе пад узброснай абаронай парт... зап укрываліся многія сем'і, па ініц... тыве камсамольцаў былі створаны і ... цавалі *лясныя школы*. Камсамольцы ... сталёўвалі класы, здабывалі падручн... паперу і інш. школьныя прыла... стваралі піянерскія атрады і кі... валі імі.

Уся дзейнасць ЛКСМБ у тыле пр... ціўніка накіроўвалася парт. орган... арг-цыямі. ЦК КП(б)Б вызнач... паліт., ваен., арганізацыйныя зада... камсамола і меры па іх ажыцц... ленню. Найбольш важныя пытанні ... разгортванне К.-м. п. і забеспячэн... яго баявітасці, вядучая роля камс... мольцаў у барацьбе супраць акупа... таў, падбор і расстаноўка кадр... камсам. будаўніцтва ва ўмовах па... полля і інш. разглядаліся на Бю... ЦК КП(б)Б. Пытанні работы ЛКСМ... абмяркоўваліся на *лютаўскім Плен... ЦК КП(б)Б 1943*. Значную дапамо... К.-м. п. аказаў ЦК ВЛКСМ, які в... значыў яго арганізацыйную структ... ру, формы і метады работы, рыхтав... кіруючыя кадры, наладжваў сувязь, в... даваў і перасылаў праз лінію фрон... літаратуру. На акупіраванай тэр. Б... ларусі працавала вял. група інстру... тараў і ўпаўнаважаных ЦК ВЛКС... У барацьбе з акупантамі бел. нар... пастаянна адчуваў брацкую падтры... ку народаў іншых рэспублік. Камс... мольскія арг-цыі РСФСР скамплект... валі, узброілі і накіравалі на т... Беларусі 3 камсамольска-маладзё... ныя партыз. атрады. Поруч з бел... русамі храбра змагалася мола... многіх брацкіх народаў Сав. краін... Матэрыяльная і маральная іх п... трымка дапамагла юнакам і дзяў... там Беларусі вытрымаць вял. напр... жанне духоўных і фізічных сіл у ця... кіх умовах трохгадовай вайны з ак... пантамі і атрымаць перамогу.

За мужнасць і гераізм, праяўленыя к... самольцамі і моладдзю рэспублікі ў ... рацьбе супраць ням.-фаш. захопні... камсамол Беларусі ўзнагароджаны ор... нам Чырвонага Сцяга (1945). Люб... ская раённая камсам. арг-цыя ўзнагар... джана ордэнам Айч. вайны 1 ступ... (1968). Больш за 37 тыс. камсамольцаў — удзельнікаў партыз. руху і падполля ... узнагароджаны ордэнамі і медал... СССР, у т. л. 28 выхаванцам камса... ла — падпольшчыкам і партызанам —

прысвоена званне Героя Сав. Саюза. На Беларусі навечна застаўся пераходны Чырвоны сцяг ЦК ВЛКСМ «Леншаму камсамольска-маладзёжнаму партызанскаму атраду», уручаны камсам. арг-цыі 13-га атрада Лепельскай партыз. брыгады. Памяць аб камсамольцах — падпольшчыках і партызанах — увекавечана ў абеліскал, стэлах, мемар. дошках; іх імёны прысвоены калгасам, школам, піянерскім дружынам, камсамольска-маладзёжным брыгадам і інш. Гл. таксама *Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі Беларусі.* *Р. М. Шавяла.*

**«КАМУНА́Р»**, газета, заснавана ў 1918 пад наз. «Известия Рогачёвского уездного исполнительного комитета». У час ням.-фаш. акупацыі орган Рагачоўскага падп. РК КП(б)Б. Выдома 13 нумароў за 24.9.1943—12.2.1944 на бел. і рус. мовах. Пасля вызвалення выдаецца пад той жа назвай, орган Рагачоўскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**КАМУНІСТЫ́ЧНАЯ ПА́РТЫЯ БЕЛАРУ́СІ** ў гады Вялікай Айчыннай вайны [да 1952 Камуністычная партыя (бальшавікоў) Беларусі, КП(б)Б], адзін з баявых атрадаў КПСС [да 1952 ВКП(б)]. З першых дзён вайны, кіруючыся ўказаннямі ЦК ВКП(б), *дырэктывай СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 29.6.1941 партыйным і савецкім арганізацыям прыфрантавых абласцей*, Кампартыя Беларусі ажыццявіла энергічныя экстраныя меры па мабілізацыі сіл і сродкаў бел. народа на барацьбу супраць фаш. агрэсіі. Напярэдадні вайны КП(б)Б налічвала ў сваіх радах 50 754 чл. і 24 297 канд. у чл. партыі, аб'яднаных у 5337 пярвічных арг-цыях, 736 кандыдацкіх і 112 парт.-камсам. групах (на 1.6.1941). Працавалі 10 абл., 14 гар., 12 раённых у гарадах і 187 сельскіх раённых к-таў партыі. Уся работа была перабудавана ў адпаведнасці з задачамі і патрабаваннямі ваен. часу, што выявілася перш за ўсё ва ўмацаванні арганізацыйнага цэнтралізму, пераразмеркаванні сіл, павышэнні парт. дысцыпліны. Пад кіраўніцтвам *Цэнтральнага Камітэта КП(б)Б* мясцовыя парт. і сав. органы аказвалі дзейсную дапамогу ваенкаматам у правядзенні *мабілізацыі ваеннай*, арганізавалі працоўных на ўзвядзенне абарончых збудаванняў. Да жн. 1941 рады Чырв. Арміі папоўнілі больш як 500 тыс. жыхароў рэспублікі, у т. л. 26,5 тыс. камуністаў і 130 тыс. камсамольцаў. На камандную і паліт. работу ў армію былі накіраваны 30 чл. і 17 канд. у чл. ЦК КП(б)Б, 18 чл. Рэвізійнай камісіі, многія сакратары абкомаў, гаркомаў і райкомаў партыі. Важную ролю ў мабілізацыі камуністаў на ажыццяўленне лозунгу партыі «Усё для фронту, усё для Перамогі!» адыгралі сходы партактыву, якія адбыліся ў гарадах і раёнах рэспублікі ў першыя дні вайны. У Мінску сход партактыву прайшоў удзень 22.6.1941. На ім з дакладам «Аб задачах партыйных арганізацый у сувязі з пачаткам вайны» выступіў 1-ы сакратар ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнка. 23 чэрв. ў адпаведнасці з дырэктывай ЦК КП(б)Б парт. арг-цыі прыступілі да стварэння ўзброеных добраахвотных нар. фарміраванняў. У чэрв. — жн. 1941 у гарадах Беларусі палкі *народнага апалчэння* і *знішчальныя батальёны* налічвалі больш за 73 тыс. чал. Дзейсныя меры прымаліся па пераводу нар. гаспадаркі рэспублікі на ваен. рэйкі, наладжванню бесперабойнай работы транспарту, мабілізацыі ўсіх матэрыяльных сродкаў на патрэбы вайны. У складаных прыфрантавых умовах пад кіраўніцтвам КП(б)Б у сав. тыл эвакуіравана больш за 100 буйных прамысловых прадпрыемстваў, 1,5 млн. чал. (гл. *Эвакуацыя*). КП(б)Б перабудавала таксама ўсю ідэйна-паліт. работу адпаведна з задачамі ваен. часу.

Перад КП(б)Б паўстала вял. па сваёй важнасці і складанасці задача: стварыць стройную, добра закансπіраваную сетку парт. органаў і арг-цый на ўсёй тэр. рэспублікі, здольных узняць і павесці за сабой працоўных на барацьбу з фаш. захопнікамі (гл. *Усенародная барацьба ў тыле ворага, Партыйнае падполле, Партызанскі рух*). Канкрэтныя формы і сродкі гэтай барацьбы вызначаны ў *дырэктыве ЦК КП(б)Б ад 30.6.1941 аб падрыхтоўцы да пераходу на падпольную работу партарганізацый раёнаў, якія знаходзіліся пад пагрозай фашысцкай акупацыі*, і ў *дырэктыве ЦК КП(б)Б ад 1.7.1941 партыйным, савецкім і камсамольскім арганізацыям па разгортванню партызанскай вайны ў тыле ворага*, прынятых да выканання ўказанняў ЦК ВКП(б). У выключна складаных умовах прыфрантавой палосы ў Мінскай, Магілёўскай, Гомельскай, Палескай і Пінскай абласцях для кіраўніцтва падполлем і партыз. рухам былі сфарміраваны абл. падп. парторганы, у 89 раёнах — раённыя падп. парторганы (райкомы, тройкі) на чале з сакратарамі або членамі бюро райкомаў партыі. Групы камуністаў колькасцю 40—80 чал. былі падабраны і пакінуты для падп. работы большасцю райкомаў партыі ўсх. абласцей рэспублікі. У населеных пунктах Віцебскай, Магілёўскай, Гомельскай і Палескай абласцей створана 397 тэрытарыяльных пярвічных парт. арг-цый, якія павінны былі ў выпадку акупацыі перайсці на падп. работу. Значная колькасць камуністаў уступіла ў партыз. атрады і групы. Усяго ў 1941 для работы ў тыле ворага на Беларусі было пакінута каля 8 тыс. камуністаў. Акрамя таго, па розных прычынах у тыле ворага апынулася частка камуністаў, якія не атрымалі ад парторганаў канкрэтных заданняў. Яны самастойна ўключыліся ў актыўную барацьбу з ворагам.



Сакратар Пінскага падпольнага абкома КП(б)Б А. Я. Кляшчоў (трэці злева), сакратар Мінскага падпольнага абкома В. І. Казлоў, І. А. Бельскі (4-ы і 5-ы злева), камандзір партызанскага атрада К. П. Арлоўскі (8-ы справа) сярод партызан Пінскага і Мінскага партызанскіх злучэнняў.

Адным з першых (21.7.1941) разгарнуў дзейнасць у тыле ворага *Мінскі падпольны абком КП(б)Б.* У яго склад уваходзілі сакратары абкома В. І. *Казлоў,* І. А. *Бельскі,* А. Ф. *Брагін,* І. Дз. *Варвашэня,* пракурор вобласці А. Г. Бондар, сакратары райкомаў Р. Н. *Мачульскі,* А. І. Сцяпанава. У ліп. пачала дзейнічаць Пінская абл. парт. тройка на чале з 2-м сакратаром абкома КП(б)Б П. Г. *Шапаваловым.* У жн. на нелегальнае становішча перайшоў Гомельскі абком [гл. *Гомельскі падпольны абком КП(б)Б*] у складзе сакратароў І. П. *Кожара,* А. А. *Куцака,* сакратара гаркома Е. І. *Барыкіна* і сакратара абкома ЛКСМБ А. Дз. *Рудака.* Да канца жн. 1941 на акупіраванай ворагам тэр. рэспублікі дзейнічалі 3 падп. абкомы, 1 гарком і 19 райкомаў партыі. Акрамя таго, у 13 раё-

50-й гвардз. (ген.-маёр А. С. Уладычанскі) і 54-й (ген.-маёр М. М. Данілаў) стралк. дывізій 3-га гвардз. стралк. корпуса 28-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе *Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944*. У К. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, магіла гвардыі палк. П. Я. Піўненкі, на іх пастаўлены помнікі. *У. М. Якубоўскі.*

**КАМЯНЕ́ЦКАЯ РАЁННАЯ АНТЫФАШЫ́СЦКАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ.** Дзейнічала з мая 1942 да ліп. 1944 на тэр. Камянецкага р-на, уваходзіла ў *Брэсцкую абласную антыфашысцкую арганізацыю*. Дзейнасць арг-цыі праходзіла пад кіраўніцтвам *Брэсцкага абласнога антыфашысцкага камітэта*, накіроўвалася *Брэсцкім падпольным абкомам КП(б)Б*. Налічвала каля 100 падпольшчыкаў. Створана на базе падп. патрыятычных груп, якія ўзніклі ў вёсках раёна з першых месяцаў вайны па ініцыятыве камуністаў Я. М. Афанасьева, І. П. Лапіна, б. членаў КПЗБ М. А. Несцерука, Ф. К. Гурмана, П. С. Мацюхевіча, Г. М. Хоміча і інш. Групы вялі антыфаш. прапаганду, прыцягвалі сав. патрыётаў да барацьбы супраць гітлераўскіх захопнікаў, аказвалі дапамогу байцам і камандзірам Чырв. Арміі, якія выходзілі з акружэння, забяспечвалі іх харчамі, адзеннем, праводзілі на бяспечных дарогах на У. Арганізацыйна афармлена на нарадзе ва ўрочышчы Курганы (май 1942), праведзенай па ініцыятыве прадстаўніка *Брэсцкага міжраённага «Камітэта барацьбы з нямецкімі акупантамі»* Афанасьева. Арг-цыю ўзначаліў створаны на нарадзе к-т: М. А. Несцярук (1-ы сакратар), Гурман (2-і сакратар, вёў пытанні агітацыі і прапаганды), П. Л. Мурашка (3-і сакратар, адказны за дыверсійную работу), А. С. Гурынчук, П. Ф. Жук, К. А. Замулка, М. Х. Несцярук, В. М. Хоміч, А. Я. Шырнюк. Арг-цыя складалася з 18 нізавых ячэек (груп), якія мелі апорныя базы ў Камянцы (сакратар М. Х. Несцярук), вёсках Бабічы (У. Р. Грыцук), Баранкі (А. Я. Шырнюк), Відамля (С. А. Лячак), Воля (Г. М. Хоміч), Грудавікі (Я. Б. Дзенісюк), Кашчэннікі (І. М. Вальчук), Кругель (Л. Г. Ляшук), Кукальчыцы (А. С. Гурынчук), Любашкі (К. А. Канавалюк), Мікалаева (К. А. Замулка), Алешкавічы (С. М. Касцючык), Плянта (М. А. Ігнацюк), Падлессе (У. В. Кунашка), Радасць (У. Н. Адамчук), Робенка (А. З. Лыскові), Угляны (І. К. Клапоцкі), Шарычы (А. М. Саковіч). Для аператыўнага кіраўніцтва падпольнай дзейнасцю тэрыторыя раёна была падзелена на 6 падраёнаў на чале з членамі к-та.

Падпольшчыкі вялі агітацыйную работу сярод жыхароў раёна, прымалі па радыё, размнажалі і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, звярталіся да насельніцтва з адозвамі і лістоўкамі, заклікаючы сав. людзей узмацніць барацьбу супраць фаш. захопнікаў. У вёсках Воля, Грудавікі, Мельнікі яны правялі сходы, прысвечаныя 25-й гадавіне Вял. Кастрычніка, у інш. населеных пунктах — агульныя сходы, прымеркаваныя да свята 1 Мая і 26-й гадавіны Чырв. Арміі. Пры актыўнай падтрымцы насельніцтва падпольшчыкі спалілі больш за 10 фаш. маёнткаў. Збіралі сродкі ў Фонд абароны, у ліст. 1943 — лют. 1944 перадалі Брэсцкаму абл. антыфаш. к-ту аблігацый дзярж. пазыкі і наяўнымі грашыма каля 15 тыс. рублёў, больш за 50 залатых і сярэбраных манет. Сваю работу падпольшчыкі праводзілі ў цесным узаемадзеянні з партыз. атрадамі. Здабывалі разведданыя аб праціўніку, збіралі і перадавалі партызанам зброю, боепрыпасы, медыкаменты. Толькі атраду імя Чкалава *Брэсцкага партызанскага злучэння* перададзена 2 кулямёты, некалькі дзесяткаў вінтовак, тысячы патронаў. Сумесна з партызанамі падпольшчыкі-антыфашысты ўчынялі дыверсіі, знішчалі масты на дарогах Камянец — Брэст, Высокае — Пружаны, Камянец — Белавежа, узарвалі 2 аўтамашыны з гітлераўцамі, псавалі тэлефонна-тэлеграфную сувязь праціўніка.

У барацьбе з акупантамі загінулі П. Ф. Жук, Г. Ф. Кандрацюк, П. С. Мацюхевіч, П. Л. Мурашка, Г. М. Хоміч, П. І. Цыбуля, Я. І. Цыбуля. *Л. В. Аржаева, П. П. Ліпіла.*

**КАНАВА́ЛЕНКА** Уладзімір Ануфрыевіч (22.4.1917, Петраград — 22.3.1944), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1942. Беларус. Скончыў Аршанскі чыг. тэхнікум (1933), Сухумскае ваен. пях. вучылішча (1941). Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну на фронце з 1942. Удзельнік Сталінградскай і Курскай бітваў. Вызначыўся ў 1943 пры вызваленні Чарнігаўшчыны і Палесся. Стралк. полк пад камандаваннем маёра К. пераадолеў мінныя палі і першы фарсіраваў р. Сейм, авалодаў чыг. ст. Бахмач, фарсіраваў Дзясну, Дняпро, Прыпяць. 23. 9.1943 полк адбіў 8 контратак, знішчыў шмат жывой сілы і тэхнікі праціўніка. Памёр ад ран. Пахаваны ў г. Жмерынка. Яго імем названа сярэдняя школа ў в. Замасточча Віцебскага р-на, дзе ён вучыўся, на будынку школы мемар. дошка.

**КАНАНО́ВІЧ** Іпаліт Сільвестравіч (21.4.1908, в. Кукавічы Капыльскага р-на — 29.10.1974), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1931. Скончыў ВПШ пры ЦК КПСС (1953). З 1935 на сав. і парт. рабоце. З ліст. 1941 на фронце. У ліст. 1942 — ліп. 1944 чл. *Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б*. З сак. 1943 упаўнаважаны БШПР, у сак. 1943 — чэрв. 1944 сакратар Слуцкага падп. РК КП(б)Б, адначасова з чэрв. 1943 камісар *партызанскай брыгады 64-й імя В. П. Чкалава*. Пасля вайны сакратар Слуцкага райкома, Бабруйскага абкома КП(б)Б, старшыня Гродзенскага аблвыканкома, нам. старшыні камісіі дзярж. кантролю СМ БССР. З 1963 на прафс. рабоце. Чл. ЦК КПБ у 1952—66. Чл. Рэвізійнай камісіі КПБ у 1949—71. Дэп. ВС СССР у 1958—62, ВС БССР у 1951—59. Ганаровы грамадзянін г. Слуцка. Яго імем названа вуліца ў Слуцку.

**КАНАПЛІН** Яўген Мікалаевіч (28.2. 1917, Віцебск — 14.4. 1980), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсамольска-маладзёжнага падполля і партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1946. Скончыў БПІ (1941). З 15.9.1943 да 6.7.1944 сакратар *Мінскага падпольнага абкома ЛКСМБ*. З 1944 сакратар Мінскага абкома ЛКСМБ. У 1947—57 сакратар ЦК ЛКСМБ, старшыня К-та па фіз. культуры і спорце пры СМ БССР, пасля на сав. і журналісцкай рабоце. Дэп. ВС БССР у 1951—55.

У. А. Канаваленка. С. М. Канашэнка.



**КАНА́РСКІ** Іосіф Феліксавіч (н. 7.7. 1918, в. Пасека, Расонскі р-н), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсамольска-маладзёжнага падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1942. Скончыў Аршанскі настаўніцкі ін-т (1940), ВПШ пры ЦК КПСС (1955). З 1937 на пед. рабоце. З ліп. 1941 член, у крас. — ліст. 1943 сакратар Расонскага падп. РК ЛКСМБ, удзельнік *Гарбачэва-Мурагоўскага партыйна-камсамольскага падполля*. З 19.12.1943 да 26.6.1944 сакратар Віцебскага падп. абкома ЛКСМБ. З 1944 на камсам., сав., парт. і пед. рабоце.

**КАНАШЭ́НКА** Сцяпан Мікалаевіч (1909, в. Узніцы Полацкага р-на — 25.9.1943), Герой Сав. Саюза (1944). На фронце з 1942. Старшына стралк. роты К. вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра і ўтрыманні плацдарма каля г. Канеў. У ноч на 24.9.1943 група разведчыкаў на чале з К. фарсіравала Дняпро, захапіла плацдарм і больш за суткі вяла бой з ворагам. Загінуў пры пераправе з данясеннем на левы бераг Дняпра.

**КАНДАКО́Ў** Сяргей Макаравіч (н. 1900, с. Алмазава Арлоўскай вобл. ), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1931. Да вайны на гасп. рабоце ў Арле. З чэрв. 1941 на фронце. У партыза-

нах з чэрв. 1942: камандзір групы, узвода, камісар атрада, у чэрв. 1943—ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады імя С. М. Кірава* Баранавіцкай вобл., адначасова з ліст. 1943 чл. Лідскага падпольнага гаркома-райкома КП(б)Б.

**КАНДРА́ЦЬЕЎ** Іван Дзмітрыевіч (11.9.1910, в. Гарошкава Дубровенскага р-на — 7.8.1958), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1943. На фронце з ліп. 1942. Камандзір разліку станк. кулямёта старшына К. вызначыўся пры фарсіраванні Паўд. Буга і Прута. 15 і 26.3.1944 знішчыў 5 варожых агнявых кропак і забяспечыў пераправу падраздзяленняў. Пасля вайны на сав. рабоце. Яго імем названа вуліца ў г. Дуброўна, Засценкаўская сярэдняя школа ў Дубровенскім р-не.

І. Дз. Кандрацьеў. П. В. Кандрацьеў.



**КАНДРА́ЦЬЕЎ** Пётр Васілевіч (20.6.1909, Віцебск — 1.6.1943), Герой Сав. Саюза (1940). Чл. КПСС з 1927. У ВМФ з 1931. Скончыў ваенна-тэарэтычную школу лётчыкаў у Ленінградзе і Ейскую ваенна-марскую школу лётчыкаў. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40, у час якой пам. камандзіра авіяпалка капітан К. зрабіў 66 баявых вылетаў, патапіў варожае судна з боепрыпасамі, спаліў на аэрадроме 7 самалётаў, знішчыў 2 паравозы, 6 аўтамашын. У Айч. вайну ўдзельнічаў у абароне Ленінграда. Знішчальны авіяполк пад камандаваннем палкоўніка К. зрабіў за 5 месяцаў каля 5 тыс. баявых вылетаў, правёў 389 паветр. баёў, знішчыў 105 варожых самалётаў, 55 танкаў. Загінуў у баі. Яго імем названа вуліца ў Віцебску.

**КАНДРА́ШЧАНКА** Мікалай Уладзіміравіч (5.1.1912, г. Бутурлінаўка Варонежскай вобл. — 30.10.1980), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Вілейскай вобл. Чл. КПСС з 1939. У 1941 на Зах. фронце. У партызанах з вер. 1942; камандзір узвода, з мая 1943 нач. штаба, камісар, камандзір атрада, у студз.— чэрв. 1944 камандзір *партызанскай брыгады «За Радзіму»*, адначасова чл. Шаркоўшчынскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—75 на сав. і адм.-гасп. рабоце.

**КАНСТАНЦІНАВА,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1 км на ПдЗ ад в. Мотужы Сенькаўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 33 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»*, фашысты загубілі 17 жыхароў, вёску (7 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1982 на месцы вёскі ўстаноўлены памятны знак. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь*.

**КАНСТАНЦІНАВА**, вёска на тэр. Пружанскага р-на, знішчаная ням. фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася на Пн ад в. Воля Ружанскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 175 чал. У чэрв. 1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 175 жыхароў, у т. л. 67 дзяцей, маёмасць разрабавалі, вёску (35 двароў) спалілі. Пасля вайне не адрадзілася. На месцы вёскі ўстаноўлены памятны знак. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь*.

**КАНСТАНЦІНАЎ** Міхаіл Пятровіч (н. 4.11.1900, г. Усмань Ліпецкай вобл.), удзельнік баёў Чырв. Арміі на тэр. Беларусі ў 1941 і 1944, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай і Палескай абл. Ген.-палк. (1958). Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1929. У Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Вышэйшую ваен. акадэмію імя Варашылава (1943). З 22.6.1941 ген.-маёр К. на Зах. фронце, камандзір 6-й кав. дывізіі. У баі 29.6.1941 цяжка паранены, укрываўся ў в. Хацэжына Мінскага р-на, потым у партызанах, камандзір групы. У вер. 1941 — сак. 1942 камандзір атрада (гл. *Партызанскі атрад М. П. Канстанцінава*). Да вер. 1942 намеснік камандзіра партыз. злучэння Мінскай і Палескай абл., узначальваў ваенна-аператыўную работу партыз. атрадаў. З восені 1942 у Чырв. Арміі, ваяваў на Бранскім, Паўд., 1-м Бел. франтах: камандзір кав. корпуса, нач. штаба конна-механізаванай групы, камандзір 7-га гвардз. Брандэнбургскага кав. корпуса, які ўдзельнічаў у *Калінкавіцка-Мазырскай аперацыі 1944, Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944*, Варшаўска-Пазнанскай 1945, Усходне-Памеранскай 1945, Берлінскай 1945 аперацыях. З 1945 на буйных камандных пасадах у Сав. Арміі, з 1964 у адстаўцы.

**КАНЦЭНТРАЦЫ́ЙНЫЯ ЛА́ГЕРЫ,** гл. *Лагеры смерці* нямецка-фашысцкія.

**«КАНЦЭ́РТ»**, умоўная назва аперацыі сав. партызан па разбурэнню чыг. камунікацый на тэр. Беларусі з мэтаю сарваць перавозкі ням.-фаш. войск у час наступлення Чырвонай Арміі; 2-і этап аперацыі *«Рэйкавая вайна»*. Аперацыя распрацавана ЦШПР і БШПР, да ўдзелу ў ёй прыцягваліся шмат якія атрады Літвы, Латв[ії], Эстоніі, Карэліі і Крыма (усяго бол[ьш] за 120 тыс. партызан). Праводзіла[ся] з 19 вер. да пачатку ліст. 194[3], планавалася ўзарваць 140 тыс. рэек.

Для забеспячэння «К.» меркавалася перакінуць самалётамі на Беларусь 120 т ваен. грузаў, аднак метэаралагічныя ўмовы перашкодзілі авіяцыі поўнасцю выканаць задачу (дастаўлена толькі 50 % грузаў). У сувязі з гэтым ЦШП[Р] даў указанне перанесці «К.» на 25 вер., але частка партыз. брыгад ужо выйшла на зыходныя рубяжы і ў ноч на 19 вер. пачала аперацыю, астатнія злучэнні прыступілі да яе 25 вер., нанёсшы магутны ўдар па камунікацыях ворага. Ням.-фаш. камандаванне перакінула на Беларусь новыя чыг. батальёны, з Польшчы, Чэхаславакіі і Германіі завозіла рэйкі і шпалы, але партызаны зноў узрывалі адрамантаваныя чыг. участкі.

За час аперацыі падарвана каля 150 тыс. рэек, у т. л. больш за 90 тыс. на Беларусі. Бел. партызаны пусцілі пад адхон 1041 варожы цягнік, вывелі са строю 807 паравозаў, 6360 вагонаў, платформ і цыстэрнаў, узарвалі 72 чыг. масты, знішчылі больш за 400 км тэлефонна-тэлеграфных ліній і інш. Прапускная здольнасць чыгунак у выніку «рэйкавай вайны» знізілася да 40 %, што сур'ёзна паўплывала на забеспячэнне варожых войск у перыяд напружаных баёў на фронце, перашкодзіла арганізацыі іх планамернага адыходу і вывазу награбаванага нар. дабра ў Германію. Праведзеная ў цесным узаемадзеянні з часцямі Чырв. Арміі, аперацыя «К.» аказала вял. дапамогу ў ажыццяўленні наступальных аперацый сав. войск у 1943. *У. І. Лемяшонак.*

**КАПАТКЕ́ВІЦКІ БОЙ 1942,** бой партызан атрадаў «Чырвоны Кастрычнік» (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 123-я Акцябрская імя 25-годдзя БССР*), А. І. Далідовіча (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 25-я імя П. К. Панамарэнкі*) супраць ням.-фаш. акупантаў у г. п. Капаткевічы 17.1.1942.

Раніцай 17.1.1942 партызаны акружылі Капаткевічы, дзе размяшчаўся варожы гарнізон (100 гітлераўцаў), бясшумна знялі вартавых і перакрылі дарогі да адступлення. Кіраваў боем камісар атрада «Чырвоны Кастрычнік» С. В. Маханько.

Невялікімі групамі па 3—5 чал. партызаны раптоўна напалі і закідалі гранатамі хаты, дзе размяшчаліся гітлераўцы. Працiўнік спрабаваў прабіцца на паўд. ўскраіну пасёлка, да чыгункі Жыткавічы — Калінкавічы, але быў сустрэты агнём партызан. У час бою, які цягнуўся 4 гадз, забіта больш за 60 гітлераўцаў, захоплена 18 вінтовак, станковы кулямёт, 1 тыс. тон збожжа, якую акупанты прызначалі для адпраўкі ў Германію. Большую частку збожжа партызаны раздалі насельніцтву. Капаткевічы былі першым раённым цэнтрам, які быў вызвалены партызанамі Беларусі ў 1942. *Р. А. Чарнаглазава.*

**КАПАТКЕ́ВІЧЫ**, гар. пасёлак у Петрыкаўскім р-не, на р. Пціч. За 35 км на

Да восені 1942 амаль уся тэр. Капыльскага р-на была ахоплена партыз. рухам, поўнасцю вызвалены ад акупантаў многія сельсаветы раёна, ліквідаваны іх органы ўлады. Частка гітлераўцаў укрылася ў добра ўмацаваным гарнізоне г. п. Капыль.

Вечарам 9.8.1942 партызаны брыгады імя Варашылава атакавалі гарнізон, жорсткі бой працягваўся 3 гадзіны. Нар. мсціўцы занялі ўскраіны пасёлка, спалілі прадпрыемствы, якія ўвялі ў дзеянне акупанты, і некаторыя дамы, дзе спрабаваў замацавацца праціўнік, знішчылі больш за 30 гітлераўцаў. Аднак пераадолець супраціўленне ворага, які засеў у мураваных будынках у цэнтры Капыля, партызанам не ўдалося, і яны адступілі, забраўшы з сабою захопленыя ў баі зброю, боепрыпасы, харчаванне. Гітлераўцы былі вымушаны зрабіць вакол Капыля новую больш дасканалую сістэму фартыфікацыйных збудаванняў і значна ўзмацніць яго гарнізон. Аднак ініцыятыву ў барацьбе з партызанамі акупантам у Капыльскім р-не так і не ўдалося захапіць. 29.6.1944 партызаны брыгады 27-й імя Чапаева вялі бой за вызваленне Капыля. Камандаваў боем камбрыг М. А. Шастапалаў. Партызаны (каля 1500 чал.) разграмілі гарнізон праціўніка, які налічваў каля 700 салдат і афіцэраў, і ўтрымлівалі гар. пасёлак і ўчастак чыгункі Слуцк — Баранавічы да прыходу Чырв. Арміі 1.7.1944.

*У. С. Пасэ, М. Ф. Шумейка.*

**КАРАБА́НЬ** Мікалай Лявонавіч (22.5.1910, в. Бачкары Ушацкага р-на — 15.4.1965), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Беластоцкай вобл. Чл. КПСС з 1932. Скончыў Камуніст. ун-т Беларусі (1930). З 1931 на камсам., сав. і парт. рабоце. З 1940 сакратар па кадрах, 2-і сакратар Браньскага РК КП(б)Б Беластоцкай вобл. З вер. 1942 у БШПР. У 1943 упаўнаважаны ЦК КП(б)Б па Браньскім р-не, з снеж. 1943 да 17.7.1944 сакратар *Браньскага падпольнага міжрайкома КП(б)Б*. З 1945 на сав. і парт. рабоце.

**КАРАЛЁЎ** Віктар Палікарпавіч (н. 18.4.1912, г. Фралова Валгаградскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1940. З 1934 на сав. і камсам. рабоце. З ліп. 1941 на фронце. У партызанах з мая 1942: радавы, камандзір узвода, камісар атрада, у студз.— маі 1943 камісар *партызанскай брыгады «За Савецкую Беларусь»*, у жн. 1943 — чэрв. 1944 — *партызанскай брыгады «Чырвоны сцяг»*. У 1945—72 на парт., сав. і гасп. рабоце.



М. Дз. Капусцін. М. П. Каралёў. П. М. Каралёў. В. А. Карасёў. І. Р. Карасёў. Дз. А. Караткевіч.

**КАРАЛЁЎ** Мікалай Піліпавіч (1.7.1906, в. Амінавічы Асіповіцкага р-на — 9.4.1972), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл., ген.-маёр (1943), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1939. Скончыў ВПШ пры ЦК КПСС (1956). З 1937 нам. старшыні, старшыня Асіповіцкага райвыканкома. З ліп. 1941 у партызанах: камандзір групы, *партызанскага атрада 210-га імя Сталіна*, у студз.— ліп. 1943 *партызанскай брыгады 1-й Асіповіцкай*, у ліп. 1943 — сак. 1944 *Асіповіцкай ваенна-аператыўнай групы*. Чл. *Магілёўскага падпольнага абкома КП(б)Б* у крас.— вер. 1943. З жн. 1944 старшыня Магілёўскага гарвыканкома; з 1953 сакратар Хоцімскага РК КПБ, з 1958 — у Магілёве. Канд. у чл. ЦК КПБ у 1949—52, 1954—60. Дэп. ВС БССР у 1947—59. Чл. Прэзідыума ВС БССР у 1947—55. Ганаровы грамадзянін г. Магілёва. Яго імем названы вуліцы ў Магілёве, Асіповічах, Хоцімску, у в. Масток Магілёўскага і Вяркі Асіповіцкага р-наў; у Магілёве на доме, дзе ён жыў, мемар. дошка, у в. Амінавічы помнік.

**КАРАЛЁЎ** Павел Міхайлавіч (н. 29.7. 1915, в. Крыцкія Гарадоцкага р-на), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1943. З жн. 1941 на Зах., Бранскім, 1-м Укр. франтах. Вызначыўся ў баях на рубяжы р. Одэр. З 27.1 да 4.2.1945 батарэя пад камандаваннем капітана К. ў раёне г. Олаў адбіла 11 контратак пяхоты і танкаў праціўніка; 5.2.1945, знаходзячыся ў акружэнні ворага, у крытычны момант бою К. выклікаў агонь сав. артылерыі на сябе, адбіў 14 контратак і ўтрымаў плацдарм. Да 1957 у Сав. Арміі, маёр, пасля ў ДТСААФ.

**КАРАМША́**, вёска на тэр. Смалявіцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 7 км на Пн ад в. Бабін Лес Жодзінскага сельсавета. У 1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 36 жыхароў, вёску (12 двароў) спалілі. Пасля вайны не адноўлена. У 1965 на месцы вёскі пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе *Хатынь*.

**КАРАНЕ́ЎСКІ** Іван Фёдаравіч (26.11. 1905, в. Усвея Ушацкага р-на — 4.5.1944), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1926. З 1925 у Чырв. Арміі. З 1933 на пед. і сав. рабоце. З 1940 сакратар Дрысенскага, Гарадоцкага РК КП(б)Б. У партызанах з мая 1942: камісар атрада, у ліп. 1942 — маі 1944 — *партызанскай брыгады імя В. І. Чапаева*, аднача сова ў ліп. 1942 — маі 1944 сакратар Ушацкага падп. РК КП(б)Б. Загінуў у баі. Яго імем названы саўгас у Бешанковіцкім р-не, вуліцы ў г. п. Ула (Бешанковіцкі р-н), Ушачы.

**КАРАНЁВА**, вёска на тэр. Бешанковіцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на ПнУ ад в. Дворнікі Ульскага пасялковага Савета каля воз. Каранёва. Перад вайной у ёй жыло 98 чал. У сак. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 39 жыхароў, у т. л. 15 дзяцей ад 1,5 да 3 гадоў, вёску (20 двароў) спалілі. Пасля вайны не адноўлена. У 1963 на магіле ахвяр фашызму пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе *Хатынь*.

**КАРАСЁЎ** Віктар Аляксандравіч (н. 26.3.1918, г. Ялец Ліпецкай вобл.), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1941. У Чырв. Арміі з 1935. Скончыў Арджанікідзеўскае пагранвучылішча (1939), Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1949). У жн. 1941 камандзір знішчальнага батальёна ў Маск. вобл., у вер.— снеж. 1941 камандзір спец. партыз. атрада, які ў ліст. 1941 адыграў вял. ролю ў правядзенні аперацыі па разгрому штаба 12-га арм. корпуса і 4-тыс. гарнізона праціўніка ў с. Угодскі Завод Калужскай вобл. З лют. 1943 камандзір

спец. *партызанскага атрада «Алімп»* НКДБ, які праводзіў разведвальна-дыверсійную работу ў Віцебскай, Магілёўскай, Гомельскай абл. БССР, на Украіне, у Польшчы, Чэхаславакіі, Венгрыі. З 1950 падпалк. К. у запасе.

**КАРАСЁЎ** Іван Раманавіч (2.5.1922, в. Вілейка Чавускага р-на — 7.11.1955), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1943. З ліп. 1941 на Паўн.-Зах., Сцяпным, 1-м і 2-м Укр. франтах. Удзельнік Курскай бітвы, Корсунь-Шаўчэнкаўскай аперацыі, вызвалення Украіны, Малдавіі, Румыніі, Венгрыі. Камандзір аддзялення сувязі мал. сяржант К. вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра на Пд ад Кіева; 2.10.1943 сярод першых пераправіўся на правы бераг, пад варожым агнём наладзіў сувязь дэсанта з камандным пунктам палка, у час баёў за 2 сутак выправіў 27 пашкоджанняў тэлефоннага кабелю. Да 1955 у Сав. Арміі. Яго імем названы вуліцы ў Магілёве і Чавусах.

**КАРАСТАЯ́НАВА** Лілія Аляксандраўна (28.5.1917, г. Лом, Балгарыя — 6.2.1943), удзельніца партыз. руху на Беларусі. Чл. ВЛКСМ. З сям'і балгарскіх рэвалюцыянераў; за ўдзел у Верасnёўскім антыфаш. паўстанні 1923 бацька расстраляны, маці разам з дзецьмі зняволена ў турму. З 1927 у СССР. З 1938 працавала ў рэдакцыі газ. «Комсомольская правда». У Айч. вайну з ліст. 1942 як спец. карэспандэнт газеты знаходзілася ў партыз. атрадах на Браншчыне і Беларусі. Загінула ў баі з гітлераўцамі каля в. Будзішча Чачэрскага р-на. Пахавана ў брацкай магіле ў Чачэрску. Яе імем названы вуліцы ў Мінску і Гомелі, цеплаход Дунайскага параходства, у Чачэрску — завулак і ў сярэдняй школе № 1 адкрыты музей Л. А. Карастаянавай, у г. Лом у яе гонар пастаўлены абеліск.

**КАРАТКЕ́ВІЧ** Дзмітрый Андрэевіч (16.10.1904, в. Драздова Талачынскага р-на — люты 1943), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў *Мінскага партыйнага падполля.* Чл. КПСС з 1928. Скончыў Рэсп. школу прапагандыстаў пры ЦК КП(б)Б. З 1937 1-ы сакратар Заслаўскага РК КП(б)Б. У 1938—40 чл. ЦК КП(б)Б. З першых дзён акупацыі Мінска кіраваў стварэннем падп. парт. груп. З мая 1942 чл. *Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б*, узначальваў разведвальную работу. У кастр. 1942 арыштаваны і закатаваны гітлераўцамі. У Мінску яго імем названа вуліца.

**КАРАТКО́Ў** Аляксей Іванавіч (12.8.1904, с. Звягіна Першамайскага р-на Яраслаўскай вобл.— 6.10.1943), Герой Сав. Саюза (1944). На фронце з кастр. 1941, кулямётчык. Вызначыўся ў баях за вызваленне Віцебскай вобл. ў кастр. 1943: знішчыў варожы кулямёт з разлікам каля в. Нова-Аляксееўка Віцебскага р-на, адкрыў узводу шлях для атакі. Загінуў у баі, закрыўшы сваім целам камандзіра ўзвода.

**КАРАЧУ́Н** Уладзімір Рыгоравіч (н. 14.3.1914, в. Кухцічы Уздзенскага р-на), Герой Сав. Саюза (1946). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Сталінградскае ваен. авіяц. вучылішча лётчыкаў (1939). З крас. 1943 на Паўд., 4-м Укр., 3-м, 1-м і 2-м Прыбалт., Ленінградскім франтах, камандзір авіяэскадрыллі штурмавікоў, капітан. Зрабіў 133 баявыя вылеты на разведку і бамбардзіроўку войск праціўніка. Знішчыў 27 танкаў, 112 аўтамашын з грузам і жывой сілай, 3 самалёты на аэрадромах і 2 у групавым паветр. баі, шмат інш. тэхнікі і жывой сілы праціўніка. Да 1957 у Сав. Арміі, падпалкоўнік. Да 1977 працаваў на з-дзе ў г. Мелітопаль.

А. І. Караткоў. У. Р. Карачун. Дз. М. Карбышаў. І. М. Кардовіч.



**КАРАШКО́Ў** Міхаіл Іванавіч (27.9.1913, в. Аннаўка Караблінскага р-на Разанскай вобл.— 27.11.1984), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1940. З 1930 рабочы. З чэрв. 1941 на фронце. У партызанах з лютага 1942: камандзір узвода, з снеж. 1942 атрада, у кастр. 1943 — чэрв. 1944 *партызанскай брыгады імя С. М. Кірава.* У 1944—78 на адм.-гасп. і сав. рабоце.

**КА́РБЫШАЎ** Дзмітрый Міхайлавіч (26.10.1880, Омск — 18.2.1945), ген.-лейт. інж. войск (1940), Герой Сав. Саюза (1946). Доктар ваен. навук (1941), прафесар (1938). Чл. КПСС з 1940. Скончыў Мікалаеўскую ваен.-інж. акадэмію (1911). Прысвоены правы скончыўшага Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1938). Удзельнік руска-японскай, 1-й сусв. і грамадз. войнаў. У 1911—14 кіраваў будаўніцтвам і рэканструкцыяй фартоў, абарончых казарм, жалезабетоннага моста, умацоўваў Дабрыньскую пазіцыю ў Брэсцкай крэпасці. У Чырв. гвардыі са снеж. 1917, потым у Чырв. Арміі. З 1923 старшыня Інж. к-та Гал. ваенна-інж. ўпраўлення РСЧА і старшыня Ваен.-тэхн. к-та РСЧА. У 1926—40 на выкладчыцкай рабоце ў ваен. акадэміях. Аўтар больш як 100 навуковых прац. У чэрв. 1941 інспектаваў будаўніцтва ваен. умацаванняў у раёне Гродна і Беластоцкай вобл. У баях пры выхадзе з акружэння на Пн ад Магілёва цяжка кантужаны трапіў у палон. Прайшоў берлінскую і нюрнбергскую турмы, лагеры смерці Острув-Мазавецкі, Замасць, Хамельбург, Брэслаў, Флосенбюрг, Майданак, Дахаў, Асвенцым, Заксенхаўзен, Маўтхаўзен, вёў антыфаш. агітацыю сярод ваеннапалонных, удзельнічаў у стварэнні падп. груп. У канцлагеры Маўтхаўзен закатаваны фашыстамі. У Маскве, Маўтхаўзене, Омску, Кіеве, Харкаве, Таліне помнікі К., у Брэсце, Гродне і Ваўкавыску мемар. дошкі. Яго імем названы: планета, 2 чыг. станцыі ў Омскай вобл., караблі, вуліцы і школы ў Маскве, Мінску, Брэсце, Гродне і інш. гарадах. У музеі Брэсцкай крэпасці-героя — мемар. зала К. Выдадзены «Выбраныя навуковыя працы» (1962).

**КАРДО́ВІЧ** Іосіф Мітрафанавіч (5.4.1899, в. Друцк Талачынскага р-на — 27.12.1967), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Магілёўскай вобл., дзярж. дзеяч БССР. Ген.-маёр (1943). Чл. КПСС з 1928. З 1925 на сав. рабоце. З 1939 нам. старшыні Магілёўскага аблвыканкома. Удзельнік *Магілёва абароны 1941*, чл. абл. штаба нар. апалчэння. У жн.— ліст. 1942 сакратар *Бабруйскага падпольнага міжрайкома КП(б)Б,* потым упаўнаважаны ЦК КП(б)Б па Магілёўскай вобл., чл. *Магілёўскага падпольнага абкома КП(б)Б.* З 1943 старшыня Магілёўскага, Віцебскага аблвыканкомаў. З 1953 у Міністэрстве харчовых тавараў, нам. міністра прамысловасці мясных і малочных прадуктаў БССР, у Белкаапсаюзе. Канд. у чл. з 1949, чл. ЦК КПБ у 1952—54. Дэп. ВС СССР у 1946—54, ВС БССР у 1951—55.

**КАРЖАНЕ́ЎСКІ** Мікалай Канстанцінавіч (1904, Мінск — 22.6.1943), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў *Мінскага партыйнага падполля.* Чл. КПСС з 1941. Перад вайной праку-

рор Баранавіцкай вобл. З першых дзён ням.-фаш. акупацыі Мінска ўключыўся ў падп. барацьбу. У жн. 1941 стварыў падп. групы на пладова-агароднінных базах № 1 і № 2. З вер. 1942 сакратар Кастрычніцкага падп. РК КП(б)Б г. Мінска, удзельнічаў у распаўсюджванні газ. «Звязда». Падтрымліваў сувязь з *Дзяржынскім партыйна-камсамольскім падполлем,* накіроўваў дзейнасць падполля ў в. Вял. Навасёлкі Дзяржынскага р-на. 2.10.1942 схоплены гітлераўцамі і пасля катаванняў спалены ў Трасцянецкім лагеры смерці ў чэрв. 1943. У Мінску яго імем названы вуліца і завулак.

М. К. Каржанеўскі. С. А. Карнач.



**КАРЗУНЫ́,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на У ад в. Грыбаўцы Каханавіцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 11 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі «*Зімовае чараўніцтва»*, фашысты загубілі 11 жыхароў, вёску (3 двары) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1982 на месцы вёскі насыпаны курган, на яго вяршыні пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**«КА́РЛСБАД»** («Karlsbad»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партызан і цывільнага насельніцтва ў Круглянскім, Аршанскім, Талачынскім, Шклоўскім р-нах 10—23.10.1942.

Праводзілася сіламі 1-й матарызаванай брыгады СС, падраздзяленняў 638-га французскага пях. і 14-га паліцэйскіх палкоў СС, 2 ахоўных батальёнаў, асобнага батальёна СС Дырлевангера, рэзервовай часці вермахта і спец. каманд СС пад кіраўніцтвам обергрупенфюрэра СС, начальніка СС і паліцыі групы арміі «Цэнтр» Баха-Залеўскага.

Група аб'яднаных партыз. атрадаў пад камандаваннем С. Г. *Жуніна* і адзін з атрадаў *партызанскай брыгады «Чэкіст»* 20.10.1942 каля в. Гоенка Круглянскага р-на ўступілі ў бязлітасную бітву з карнікамі, прарваліся праз загараджальныя ланцугі гітлераўцаў і выйшлі за шашу Магілёў — Мінск у зону клічаўскіх партызан. У гэтым баі загінула група камандзіраў брыгады «Чэкіст», капітан І. М. Сувораў, мал. палітрук М. І. Масюраў, лейт. Б. М. Клюшнікаў, фашысты страцілі забітымі і параненымі 89 чал. Карнікі не змаглі акружыць і знішчыць партызан і расправіліся з цывільным насельніцтвам у вёсках Падар, Ваўкоўшчына, Задні Бор, Казёл, спалілі вёскі Гоенка і Паляжаеўка, расстралялі 1051 чал., пераважна жанчын, дзяцей і старых.

*В. С. Лазебнікаў, А. А. Фактаровіч.*

**КАРМА́,** гар. пасёлак, цэнтр Кармянскага р-на, прыстань на р. Сож. За 91 км на Пн ад Гомеля, 55 км ад чыг. ст. Рагачоў, на лініі Магілёў — Жлобін, аўтадарогамі звязана з Чачэрскам, Гомелем, Магілёвам, Рагачовам, Слаўгарадам. З 1924 цэнтр раёна, з 1938 гар. пасёлак. 12.8.1941 ням.-фаш. войскі прарвалі фронт абароны 13-й арміі на р. Сож, 15.8.1941 акупіравалі гар. пасёлак. Гітлераўцы знішчылі ў К. і раёне 1173 чал. З мая 1942 на тэр. раёна дзейнічаў Кармянскі партыз. атрад, які пазней аформіўся ў *партызанскую брыгаду 1-ю Гомельскую.* У раёне дзейнічалі Кармянскія падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ (15.8.1941—2.10.1943), партыз. брыгады «Бальшавік», «Уперад», 1-я Гомельская, 10-я Журавіцкая, 14-я Цемналесская, асобны партыз. атрад Добрушскі (гл. адпаведныя артыкулы). Вызвалена 26.11.1943 войскамі 121-й (ген.-маёр Л. Д. Чырвоній) і 283-й (палк. В. А. Канавалаў) стралк. дывізій, 117-й танк. брыгады (палк. А. С. Варанкоў) 3-й арміі Бел. фронту ў ходзе *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943.* У К. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі; помнік землякам, загінуўшым у гады Вял. Айч. вайны. *У. М. Якубоўскі.*

**КАРМЯ́НСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала ў Кармянскім р-не Магілёўскай вобл. з жн. 1941 да ліст. 1943 пад кіраўніцтвам Кармянскіх падп. РК КП(б)Б і РК ЛКСМБ. Аб'ядноўвала 39 чал., 4 падп. арг-цыі і групы: у в. Бель — кіраўнік камуніст І. П. Калякін, в. Валынцы — камсамолка Т. І. Абатурава, потым В. Я. Паўлава, в. Гарадок — камсамольцы У. І. Майсейкаў, А. А. Вішнеўскі, в. Струмень — А. І. Хадановіч. Падпольныя групы праводзілі масава-палітычную работу, дапамагалі партыз. атрадам зброяй, боепрыпасамі, рыхтавалі людскія рэзервы. З дапамогай Т. І. Абатуравай у вер. 1941 была арганізавана сустрэча кіраўнікоў Кармянскага і Чачэрскага падп. райкомаў КП(б)Б. Дом Г. М. Абатуравай у в. Бель з'яўляўся явачнай кватэрай Кармянскага падп. РК КП(б)Б.

Члены групы в. Валынцы да лют. 1942 падрыхтавалі для ўступлення ў партыз. атрад 30 чал. Патрыёты в. Бель перадалі партызанам 6 вінтовак, ручны кулям... скрынку гранат, в. Жаўніца (гру... в. Валынцы) — 2 ручныя кулямёты, 1... вінтовак. Па даручэнню падп. райкома партыі патрыёты вёсак Гарадок і Струмень вялі разведку ў кармянскім гар... зоне, падтрымлівалі сувязь з Карм...скім партыз. атрадам і 10-й Журав...кай брыгадай, забяспечвалі партыз... праваднікамі, дакументамі. Падпольшчыкі в. Струмень аказвалі дапамогу парты... брыгадзе № 47 «Перамога» зброяй, бо... прыпасамі, харчамі, арганізавалі лода...ную пераправу цераз р. Сож. У перы... блакады партыз. зоны карнікамі ў ліп.— жн. 1942 камсамольцы дапамаглі парты...занам выходзіць з акружэння. Гру... в. Гарадок знішчыла лінію сувязі на ўчастку Карма — Літвінавічы, узарва... аўтамашыну з нарабаванымі харчамі. Патрыёты в. Струмень прымалі ўдзе... ў разгроме мясцовага паліцэйскага ўчастка.

У барацьбе супраць ням.-фаш. захоп...нікаў загінулі І. П. Калякін, Г. М. Абатурава, Т. І. Абатурава, В. А. Арцем'ева, Л. А. Арцем'ева, Ф. А. Драбышэўская, В. Ф. Караткевіч, Г. Дз. Караткевіч, А. З. Кунькоў, У. І. Майсейкаў, В. А. Сапега, М. М. Сляпцоў, М. І. Хадановіч, Д. Ф. Халопаў, І. Г. Халопаў. *М. Ф. Шумейка*

**КАРНА́Ч** Сцяпан Андрэевіч (н. 10.11. 1918, в. Клінок Чэрвеньскага р-на), Герой Сав. Саюза (1944), ген.-маёр авіяцыі (1957). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Мінскі аэраклуб (1938), Адэскую ваен. авіяц. школу лётчыкаў (1940), Ваен. акадэмію Генштаба (1958). З 22.6.1941 на Паўд., Крымскім, Закаўказскім, Варонежскім, Сцяпным, 2-м і 1-м Укр. франтах, камандзір звяна, эскадрыллі, штурман палка, нам. камандзіра і камандзір знішчальнага авіяпалка. Удзельнік абароны Севастопаля, баёў у Крыме, на Каўказе, Белгарадска-Харкаўскай аперацыі, баёў на Украіне, у Польшчы, Германіі, Чэхаславакіі, штурму Берліна. Зрабіў 346 баявых вылетаў, удзельнічаў у 84 паветр. баях, збіў 16 варожых самалётаў, 4 — у групе. Да 1973 у Сав. Арміі.

**КАРНАЧО́НАК** Мікалай Аляксандравіч (1922, в. Баркі 1-я Шклоўскага р-на — 22.9.1942), Герой Сав. Саюза (1942). Чл. КПСС з 1942. Скончыў аэраклуб у Оршы і Адэскае авіяц. вучылішча. У Айч. вайну з 1941 на Паўд.-Зах. і Сталінградскім франтах. Камандзір звяна знішчальнага авіяпалка лейтэнант К. зрабіў 349 баявых вылетаў, збіў 10 варожых самалётаў. Загінуў у баі. Яго імем названы вуліцы ў Оршы, Шклове, Аршанскі мясакансервавы камбінат, на тэр. якога пастаўлены бюст К.

**КАРНЕ́ЕНКА** Уладзімір Якаўлевіч (н. 15.7.1924, в. Губінічына Крычаўскага р-на), поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПСС з 1958. На фронце з 1943. Камандзір кулямётнага разліку ст. сяржант К. вызначыўся пры вызваленні Беларусі і Польшчы: 28.2. 1944 у в. Янава Быхаўскага р-на знішчыў кулямёт і каля 20 гітлераўцаў, паранены працягваў бой; у ліп. 1944 у баі на тэр. Смалявіцкага р-на

## КАРНЫЯ АПЕРАЦЫІ НЯМЕЦКА–ФАШЫСЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ НА БЕЛАРУСІ Ў 1941–44 гг.



Месца правядзення карных аперацый нямецка-фашысцкіх захопнікаў супраць партызан і мірнага насельніцтва на Беларусі ў 1941–44 гг.

Граніцы СССР дадзены на 22 чэрвеня 1941 г.

Граніцы замежных дзяржаў – на 1 сакавіка 1938 г.

Заўвага. Лічбы каля знакаў на карце адпавядаюць парадкавым нумарам карных аперацый у табліцы

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 19. | № 6 (у некаторых дакументах № 10) | жн. 1942 | Любанскі, Старадарожскі, Глускі, Бабруйскі р-ны |
| 20. | № 7 (у некаторых дакументах «Няведанне», або № 11) | жн. 1942 | Бабруйскі р-н |
| 21. | № 17 | жн. 1942 | Клімавіцкі, Касцюковіцкі р-ны |
| 22. | № 20 | жн. 1942 | Стрэшынскі, Парыцкі р-ны |
| 23. | № 26 | жн. 1942 | Чавускі р-н |
| 24. | «Сокал» № 27 («Folke») | жн. 1942 | Полацкі р-н |
| 25. | *«Грыф»* № 30 | жн. 1942 | Аршанскі, Сенненскі р-ны |
| 26. | *«Пантэра»* № 32 | жн. 1942 | Расонскі р-н |
| 27. | № 95 | жн. 1942 | Віцебскі, Суражскі, Лёзненскі, Полацкі, Сіроцінскі, Гарадоцкі р-ны |
| 28. | «Гольфельд» («Holfeld») | жн. 1942 | Парыцкі, Акцябрскі, Глускі р-ны |
| 29. | «Лютцаў» («Lützoff») | жн. 1942 | Асіповіцкі р-н |
| 30. | «Дружба» («Freundschaft») | жн. 1942 | Рагачоўскі р-н |
| 31. | *«Балотная ліхаманка* — Поўнач Троенфельд I» | жн. 1942 | Лепельскі, Бягомльскі р-ны |
| 32. | «Балотная ліхаманка — Поўнач Троенфельд II» | жн. 1942 | Лагойскі, Смалявіцкі р-ны |
| 33. | «Балотная ліхаманка — Поўнач Бінц» | жн. 1942 | Плешчаніцкі, Ільянскі р-ны |
| 34. | «Балотная ліхаманка — Поўнач Баркхольт» | жн. 1942 | Лагойскі р-н |
| 35. | «Балотная ліхаманка — Поўнач Троенфельд III» | жн.— вер. 1942 | Уздзенскі р-н |
| 36. | «Балотная ліхаманка — Захад» | жн.— вер. 1942 | Стаўбцоўскі р-н |
| 37. | «Балотная ліхаманка — Поўдзень — Захад» | вер. 1942 | Быценскі, Ганцавіцкі, Косаўскі, Целяханскі р-ны |
| 38. | *«Міхель»* | жн.— вер. 1942 | Косаўскі, Бярозаўскі, Ружанскі, Пружанскі, р-ны |
| 39. | № 28 | вер. 1942 | Бешанковіцкі, Ушацкі р-ны |
| 40. | *«Рысь»* № 33 | вер. 1942 | Бешанковіцкі, Сенненскі р-ны |
| 41. | № 34 | вер. 1942 | Полацкі р-н |
| 42. | *«Брэслаў» № 36* | вер. 1942 | Быхаўскі р-н |
| 43. | «Серабрыстая ліса» № 37 («Silberfuchs») | вер. 1942 | Дубровенскі, Лёзненскі р-ны; Смаленская вобл. |
| 44. | *«Сава»* № 38 | вер. 1942 | Талачынскі р-н |
| 45. | «Паўночнае мора» («Nordsee») | вер. 1942 | Быхаўскі р-н |
| 46. | *«Трохвугольнік»* | вер.— кастр. 1942 | Брэсцкі, Кобрынскі, Маларыцкі р-ны |
| 47. | *«Маланка»* | вер.— кастр. 1942 | Бешанковіцкі, Сіроцінскі р-ны |
| 48. | *«Рэгата»* | кастр. 1942 | Горацкі, Дрыбінскі р-ны |
| 49. | *«Карлсбад»* | кастр. 1942 | Аршанскі, Талачынскі, Круглянскі, Шклоўскі р-ны |
| 50. | «Вундэрліх» («Wunderlich») | кастр. 1942 | Стаўбцоўскі р-н |
| 51. | *«Хоцемля-Аргуны»* | кастр. 1942 | Суражскі, Віцебскі р-ны |
| 52. | *«Альберт I»* | ліст. 1942 | Уздзенскі, Капыльскі р-ны |
| 53. | *«Альберт II»* | ліст. 1942 | Пухавіцкі р-н |
| 54. | *«Клетка малпы»* | ліст. 1942 | Гарадоцкі, Мехаўскі р-ны; Невельскі р-н РСФСР |
| 55. | «Карл» («Karl») | ліст. 1942 | Барысаўскі р-н |
| 56. | *«Нюрнберг»* | ліст. 1942 | Браслаўскі, Пастаўскі, Шаркоўшчынскі р-ны |
| 57. | *«Фрыда»* | ліст. 1942 | Бярэзінскі, Смалявіцкі, Барысаўскі, Чэрвеньскі р-ны |
| 58. | «Белы мядзведзь» («Eisbär») | снеж. 1942 | Лёзненскі, Суражскі р-ны; Смаленская вобл. РСФСР |
| 59. | *«Гамбург»* | снеж. 1942 | Дзятлаўскі, Жалудоцкі, Казлоўшчынскі, Лідскі, Мастоўскі, Навагрудскі, Слонімскі, Шчучынскі р-ны |
| 60. | *«Альтона»* | снеж. 1942 | Навамышскі, Быценскі, Ляхавіцкі, Ганцавіцкі, Целяханскі р-ны |

вільнага насельніцтва акупіраванай Беларусі з ліп. 1941 да канца студз. 1942. Батальён (3 роты самакатчыкаў і аўтарота, аўтамабільны корпус — усяго 554 афіцэры і вахмістры) з 24.7.1941 знаходзіўся ў падпарадкаванні вышэйшага начальніка СС і паліцыі Расіі «Цэнтр», з 7.9.1941 у складзе паліцэйскага палка «Цэнтр».

У ліп. 1941 правёў карную аперацыю ў Беластоку ў адпаведнасці з загадам: «Палякаў і рускіх лічыць ворагамі немцаў і дзейнічаць супраць іх жорстка, рашуча і бязлітасна», 18 ліп. расстраляў 105 чал., у т. л. сав. ваеннапалонных. Па загаду групенфюрэра СС Баха-Зелеўскага 25—31.7.1941 батальён правёў т. зв. эвакуацыю населеных пунктаў у Белавежскай пушчы: з 34 вёсак былі вывезены ўсе жыхары (6646 чал.). Карнікі забралі ў сялян 665 коней, 287 кароў, 454 цяляці, больш за 2,5 тыс. свіней, 1939 авечак, сельгаспрадукты, асабістыя рэчы, абязлюдзеўшыя вёскі спалілі, у т. л. Броўск, Доўгі Барок, Немяржанка, Навасёлкі, Цяраспаль, Ціхаволя, Тушамля, Язвіна (Свіслацкі р-н). З 31 ліп. да 19 жн. гітлераўцы загубілі ў раёне Белавежскай пушчы (па няпоўных даных) больш за 640 чал. 22—25.8. 1941 ажыццяўлялі «асобныя акцыі» і «асобныя задачы» ў Пінску, Бярозе і в. Колбавічы (Навамышскі р-н), 30—31 жн. правялі «карэнную акцыю» ў гета Мінска і расстралялі 914 чал. У данясенні камандаванню адзначалася: «расстрэлы праведзены без асобых эксцэсаў... Спроб да ўцёкаў дзякуючы ўдала выбранай мясцовасці і дакладнаму кіраўніцтву не было». 3—7.9.1941 карнікі рабавалі і расстрэльвалі насельніцтва ў Уздзенскім р-не. 16—18 вер. яны правялі «аперацыі ўціхамірвання» ў раёне, абмежаваным р. Дняпро — дарогамі Палыкавічы — Княжыцы, Княжыцы — Магілёў; у вёсках Палыкавічы, Княжыцы, Пашкава, Паўлаўка, Дары (Магілёўскі р-н), Падзевічы, Хвойна (Бялыніцкі р-н) расстралялі, утапілі ў балотах і спалілі каля 100 чал. 22 вер. рота карнікаў пад камандаваннем капітана паліцыі Бінца акружыла в. Барсукі (Магілёўскі р-н), дзе ў адным з дамоў захапіла параненага камандзіра 172-й стралк. дывізіі, якая абараняла Магілёў, ген.-маёра М. Ц. *Раманава*, за яго «ўкрывальніцтва» расстраляла 9 мужчын і 6 жанчын. 24.9—2.10.1941 карнікі правялі «акцыі ўціхамірвання» ў вёсках Княжыцы, Ліпок, Гуслянка, Грышанава, Шапчыцы (Магілёўскі р-н), расстралялі 112 чал., 3 кастр. яны загубілі 2 тыс. чал. з гета Магілёва. З 4 кастр. батальён праводзіў варварскія акцыі супраць цывільнага насельніцтва ў Быхаўскім, Прапойскім і Чавускім р-нах. У вёсках Рагі, Бярэсце, Горкі, Вусніki, Бялівіца, Клетка, Ніканавічы, Доўгі Мох, Іванішчавічы і інш. карнікі расстралялі, спалілі і ўтапілі ў балотах больш за 760 чал., у г. п. Краснаполле расстралялі 129 чал.

Па няпоўных даных з ліп. 1941 да ліст. 1942 батальён загубіў каля 5 тыс. цывільных жыхароў і сав. ваеннапалонных (без уліку, з-за адсутнасці дакладных даных, «асобых акцый» у Пінску, Бярозе і в. Колбавічы).

*У. С. Пасэ.*

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 61. | «Сонцастаянне» («Sonnenwende») | снеж. 1942 | Бялыніцкі р-н |
| 62. | *«Зімовы лес»* | снеж. 1942 — студз. 1943 | Віцебскі, Гарадоцкі, Мехаўскі, Полацкі, Сіроцінскі р-ны |
| 63. | *«Франц»* | студз. 1943 | Бярэзінскі, Асіповіцкі, Пухавіцкі, Чэрвеньскі р-ны |
| 64. | *«Якаб»* | студз. 1943 | Дзяржынскі, Уздзенскі р-ны |
| 65. | *«Свята ўраджаю»* | студз.— люты 1943 | Пухавіцкі, Капыльскі, Грэскі, Слуцкі, Уздзенскі р-ны |
| 66. | *«Заяц-бяляк»* | студз.— люты 1943 | Асвейскі, Дрысенскі, Полацкі, Расонскі р-ны |
| 67. | *«Горнунг»* | люты 1943 | Лунінецкі, Ганцавіцкі, Ляхавіцкі, Жыткавіцкі, Слуцкі, Старобінскі, Чырвонаслабодскі, Ленінскі р-ны |
| 68. | «Паляванне на зайцоў» («Hasenjagd») | люты 1943 | Добрушскі р-н |
| 69. | «Урсула» («Ursula») | люты 1943 | Рагачоўскі р-н |
| 70. | *«Шаравая маланка»* | люты — сак. 1943 | Віцебскі, Гарадоцкі, Суражскі р-ны |
| 71. | *«Зімовае чараўніцтва»* | люты — сак. 1943 | Дрысенскі, Асвейскі, Полацкі, Расонскі р-ны |
| 72. | *«Русалка»* | люты — сак. 1943 | Жыткавіцкі, Петрыкаўскі, Любанскі, Капаткевіцкі, Старобінскі р-ны |
| 73. | *«Грамавы ўдар»* | сак. — крас. 1943 | Віцебскі, Гарадоцкі, Полацкі, Мехаўскі, Сіроцінскі р-ны |
| 74. | *«Дырлевангер»* | сак. 1943 | Лагойскі, Смалявіцкі р-ны |
| 75. | *«Цёплы вецер»* | сак. 1943 | Лунінецкі, Ганцавіцкі, Ляхавіцкі, Клецкі р-ны |
| 76. | «Вясна» («Frühling») | сак. 1943 | Барысаўскі, Смалявіцкі, Чэрвеньскі р-ны |
| 77. | *«Манылы»* | крас. 1943 | Лагойскі, Барысаўскі, Плешчаніцкі, Смалявіцкі р-ны |
| 78. | *«Чароўная флейта»* | крас. 1943 | г. Мінск |
| 79. | «Смяльчак I і II» («Draufgänger») | крас. 1943 | Плешчаніцкі, Лагойскі, Мінскі, Маладзечанскі, Ільянскі, Радашковіцкі, Заслаўскі р-ны |
| 80. | *«Хрушч»* | май 1943 | Бярэзінскі, Быхаўскі, Кіраўскі, Клічаўскі р-ны |
| 81. | «Маланка» («Blitz») | май 1943 | Навагрудскі р-н |
| 82. | *«Майская навальніца»* | май 1943 | Віцебскі, Гарадоцкі, Суражскі, Лёзненскі р-ны |
| 83. | *«Котбус»* | май — чэрв. 1943 | Бягомльскі, Лепельскі, Халопеніцкі; Плешчаніцкі р-ны |
| 84. | «Веснавы карагод» («Frühlingsrugen») | май — чэрв. 1943 | Лёзненскі р-н; Смаленская вобл. РСФСР |
| 85. | «Такавішча цецерукоў» («Birkhahnbalz») | чэрв. 1943 | Горацкі, Шклоўскі р-ны |
| 86. | «Паездка на сёмуху» («Pfingstreise») | чэрв. 1943 | Крычаўскі, Прапойскі р-ны |
| 87. | «Дождж на сёмуху» («Pfingstregen») | чэрв. 1943 | Лёзненскі р-н; Смаленская вобл. РСФСР |
| 88. | «Узорны маёнтак» («Mustergut») | ліп. 1943 | Магілёўскі р-н |
| 89. | *«Гюнтэр»* | ліп. 1943 | Валожынскі, Лагойскі, Плешчаніцкі, Радашковіцкі, Заслаўскі р-ны |
| 90. | *«Буравеснік»* | ліп. 1943 | Клімавіцкі р-н |
| 91. | *«Герман»* | ліп.— жн. 1943 | Івянецкі, Навагрудскі Валожынскі, Юрацішкаўскі, Любчанскі р-ны |
| 92. | *«Іваноў»* | жн. 1943 | Бярэзінскі, Бялыніцкі, Клічаўскі р-ны |
| 93. | «Вандсбек» («Wandsbeck») | жн. 1943 | Мастоўскі, Жалудоцкі, Шчучынскі р-ны |
| 94. | «Муха» («Fliege») | жн. 1943 | Клімавіцкі р-н |
| 95. | *«Фрыц»* | вер.— кастр. 1943 | Браслаўскі, Відзаўскі, Глыбоцкі, Міёрскі, Пастаўскі, Шаркоўшчынскі, Дунілавіцкі р-ны |

**КАРО́БКІН** Васіль Іванавіч (н. 30.6 1904, станіца Мінгрэльская Абінска га р-на Краснадарскага краю), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Баранавіц кай вобл. Чл. КПСС з 1928. З чэрв 1941 на фронце. З жн. 1942 сувязны партыз. атрада, камандзір узвода, у жн. 1943 — студз. 1944 камісар *пар тызанскай брыгады 18-й імя М. В Фрунзе,* у студз.— маі 1944 каман дзір *партызанскай брыгады 19-й імя В. М. Молатава,* адначасова чл. Ля

Р. Я. Кароль. С. Г. Кароль.



хавіцкага падп. РК КП(б)Б. У 1944—61 на адм. рабоце.

**КАРО́ЛЬ** Рыгор Якаўлевіч (н. 20.10 1922, в. Турок Петрыкаўскага р-на) поўны кавалер ордэна Славы. Чл КПСС з 1943. На фронце з чэрв 1941. Удзельнік баёў пад Сталінгра дам, на Курскай дузе, у Прыбалтыцы Польшчы, Германіі, камандзір гарма ты, потым агнявога ўзвода. Ст. сяр жант К. вызначыўся: 19.1.1944 пры вызваленні Калінінскай вобл. разлік яго гарматы знішчыў 2 станковыя ку лямёты і процітанк. гармату; 17—23.7.1944 у баях за вызваленне Пскоў скай вобл. знішчыў 4 кулямёты і 6 гармат; у крас.— маі 1945 у баях на вуліцах Берліна ўзвод пад яго каман даваннем заглушыў агонь 2 мінамёт ных батарэй, знішчыў бронетранспар цёр, 11 кулямётаў, 2 мінамётныя бата рэі, больш за 50 гітлераўцаў. Да 1974 у Сав. Арміі, маёр.

**КАРО́ЛЬ** Сцяпан Георгіевіч (2.12 1894, в. Дварэц Дзятлаўскага р-на — 20.1.1975), ген.-лейт. авіяцыі (1944) Чл. КПСС з 1919. У арміі з 1915, у Чырв. Арміі з 1918. Удзель нік Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917, грамадз. вайны. Скончыў Ваенна-па ветр. акадэмію імя Жукоўскага (1935) Ваен. акадэмію Генштаба (1940). У 1933—37 камандзір і камісар авіяц брыгады ў Бел. і Кіеўскай ваен. акру гах. У Айч. вайну на Цэнтр., Варо нежскім, Сцяпным і 1-м Укр. франтах нам. камандзіра, камандзір авіяды візіі, знішчальнага авіякорпуса. Удзельнік Курскай бітвы, вызвалення Кіева, Корсунь-Шаўчэнкаўскай апе рацыі. У 1947—51 нач. факультэта Ваен. акадэміі.

**КАРО́ТКІН** Сямён Міхайлавіч (15.3

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 96. | *«Хубертус»* | кастр. 1943 | Калінкавіцкі, Васілевіцкі, Рэчыцкі, Хойніцкі р-ны |
| 97. | *«Асвячэнне храма»* | кастр. 1943 | Калінкавіцкі, Васілевіцкі, Хойніцкі р-ны |
| 98. | *«Барбара»* | кастр. 1943 | Калінкавіцкі, Васілевіцкі, Даманавіцкі р-ны |
| 99. | «Асенняе паляванне» («Herbstjagd») | кастр. 1943 | Кіраўскі р-н |
| 100. | «Танец» («Tanz») | кастр. 1943 | Ельскі р-н |
| 101. | *«Паляванне на зайцоў»* | кастр. 1943 | Бялыніцкі, Круглянскі, Шклоўскі р-ны |
| 102. | *«Паляванне на качак»* | кастр. 1943 | Бялыніцкі, Круглянскі, Шклоўскі р-ны |
| 103. | *«Генрых»* | кастр.— ліст. 1943 | Полацкі, Расонскі р-ны; Калінінская вобл. РСФСР |
| 104. | «Паляванне Хубертуса» («Hubertusjagd») | ліст. 1943 | Бялыніцкі, Круглянскі р-ны |
| 105. | *«Ота»* | снеж. 1943 | Дрысенскі, Асвейскі р-ны |
| 106. | «Карл» («Karl») | снеж. 1943 | Докшыцкі, Бягомльскі, Лепельскі р-ны |
| 107. | «Дворник» («Straßenfeger») | снеж. 1943 | Ушацкі р-н |
| 108. | *«Віхор»* | крас. 1944 | Пухавіцкі р-н |
| 109. | «Лівень» («Regenschauer») | | Докшыцкі, Лепельскі, Полацкі, Ушацкі р-ны |
| 110. | *«Веснавое свята»* | крас.— май 1944 | Докшыцкі, Лепельскі, Полацкі, Ушацкі р-ны |
| 111. | *«Рык»* | май 1944 | Маларыцкі р-н; Ратнаўскі р-н УССР |
| 112. | *«Стракаты дзяцел»* | май 1944 | Крупскі р-н |
| 113. | *«Марабу»* | май 1944 | Жыткавіцкі, Ленінскі, Любанскі р-ны |
| 114. | *«Прагулка на сёмуху»* | крас.— май 1944 | Бягомльскі, Плешчаніцкі, Барысаўскі р-ны |
| 115. | *«Баклан»* | май — чэрв. 1944 | Барысаўскі, Халопеніцкі, Куранецкі, Крупскі, Лагойскі, Плешчаніцкі, Ільянскі, Радашковіцкі, Мінскі, Маладзечанскі, Смалявіцкі, Докшыцкі, Бягомльскі, Лепельскі р-ны |
| 116. | *«Півоня»* | чэрв. 1944 | Пухавіцкі, Старадарожскі, Асіповіцкі р-ны |

...903, в. Барсукі Аршанскага р-на — ...10.1942), адзін з кіраўнікоў парт. ...дполля і партыз. руху ў Віцеб... вобл. Чл. КПСС з 1928. Скон... Камуніст. ін-т журналістыкі ў ...ску (1934). З 1929 на сав., парт. ... журналісцкай рабоце. Удзельнік ...-фінл. вайны 1939—40. З 1940 ... аддзела, сакратар Сіроцінскага ...К КП(б)Б. У партызанах з сак. ...42, у чэрв.— кастр. 1942 камандзір брыгады (гл. *Партызанская брыгада ... С. М. Кароткіна),* адначасова з ... 1942 сакратар Сіроцінскага падп. ...К КП(б)Б. Загінуў у авіякатастро... Яго імем названы саўгас у Шу...скім р-не, вуліца ў г. Жабінка ... п. Шуміліна.

**КАРПЕЗА** Ігнацій Іванавіч (н. 25.11. ...898, в. Кугалёўка Глыбоцкага р-на), ...-лейт. (1946). Чл. КПСС з 1919. ... арміі з 1915, у Чырв. Арміі з 1918. ...дзельнік грамадз. вайны. Скончыў ... акадэмію імя Фрунзе (1936). ... 1936 пам. камандзіра, камандзір ...і, нач. ваен. вучылішча, камандзір корпуса. На фронце з чэрв. 1941. ...андуючы 15-м механіз. корпусам, ...ьнічаў у. танк. бітве пад Дубна, Луцкам і Роўна. Да 1959 нам. і нам. камандуючага войскамі ваен. акругі.

**КАРПЕНКА** Акім Паўлавіч (17.9.1915, г. п. Лоеў — 10.9.1974), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1942. У Чырв. Арміі з 1933. Скончыў 5-ю авіяц. школу ў Ленінградзе (1936). З чэрв. 1941 на Паўд., Паўд.-Зах., Паўн.-Каўказскім франтах. Штурман авіяэскадрыллі маёр К. зрабіў 236 баявых вылетаў, з іх 184 на бамбардзіроўку далёкіх варожых аб'ектаў. Да 1954 у Сав. Арміі, палкоўнік. Працаваў на заводзе у Цірасpалі і ў Чарнаморскім параходстве.

**КАРПІНСКІЯ,** маці і дачка, удзельніцы *Магілёўскага партыйна-камсамольскага падполля.*

Вольга Мікалаеўна (1900 — сак. 1943), напярэдадні вайны настаўніца сярэдняй школы № 7 г. Магілёва.

Таццяна Раманаўна (23.7. 1923, г. Хмельнік Вінніцкай вобл.— сак. 1943). Чл. ВЛКСМ. У 1941 скончыла сярэднюю школу ў Магілёве. З восені 1941 К. ўваходзілі ў падп. групу К. Ю. Мэтэ, з вясны 1942 — у «Камітэт садзеяння Чырвонай Арміі» (гл. *Магілёўскае партыйна-камсамольскае падполле*). Па заданню падполля Таня працавала ў гар. управе, дыктарам радыёвузла. Яна здабывала разведданыя, дапамагала афармляць дакументы падпольшчыкам, сав. ваеннапалонным, якія ўцяклі з лагераў смерці. Ква-



І. І. Карпеза. А. П. Карпенка.

тэра К. была явачнай для падпольшчыкаў, там захоўвалася зброя, медыкаменты. На пішучай машынцы Таня друкавала газеты *«За Родину»* (з восені 1942 «За Советскую Родину»), лістоўкі. У сак. 1943 фашысты арыштавалі і пасля жорсткіх катаванняў загубілі К. Імем Т. Карпінскай названы параход, завулак у Магілёве; на будынку сярэдняй школы № 1 у 1964 устаноўлена мемар. дошка.

**КАРПОВІЧ** Вікенцій Паўлавіч (н. 20.1. 1914, пас. Калодзішчы Мінскага р-на), Герой Сав. Саюза (1942). Чл. КПСС з 1942. Скончыў Ін-т нацыянальных меншасцей (1937), Мінскі аэраклуб (1937), Барысаглебскую ваен. авіяц. школу лётчыкаў (1938), Ваен.-паветр. акадэмію каманднага і штурманскага саставу ВПС (1944). У Чырв. Арміі з 1938. З 22.6.1941 на Паўд., 1-м Укр. франтах. Лётчык-знішчальнік, нам. камандзіра знішчальнага авіяпалка. Удзельнік абароны Малдавіі, Украіны, Растована-Доне, баёў за Берлін, вызвалення Прагі. Зрабіў 263 баявыя вылеты, правёў 35 паветр. баёў, збіў 8 самалётаў праціўніка. 16.3.1942 цяжка паранены прывёў самалёт на свой аэрадром. Да 1960 у Сав. Арміі, палкоўнік.

**КАРЫЦКІ** Сяргей Дзям'янавіч (5.11. 1913, в. Мудроўка, Мінскі р-н — 20. 9. 1944), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1942. Скончыў Варонежскі заатэхн. ін-т (1938). У Чырв. Арміі з 1939. З ліп. 1941 на Паўд.-Зах., 1-м Укр. франтах. Удзельнік вызвалення Луцка, Бродаў, Пярэмышля. Камандзір кав. эскадрона ст. лейтэнант К. вызначыўся пры выхадзе на чэхаславацкую граніцу. 19—20.9.

17 Зак. 623.

1944 яго эскадрон захапіў 2 варожыя батарэі, 7 аўтамашын з ваен. грузам, знішчыў больш за 70 гітлераўцаў, адбіў каля 10 контратак і прымусіў ворага адступіць. Загінуў у гэтым баі. Яго імем названы вуліцы ў Мінску і пас. Ратамка Мінскага р-на.

**КАРЭ́ЛІЦКІ РАЕННЫ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты 29.6.1974. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, мае 105 экспанатаў асн. фонду, пл. 81 м². Экспануюцца матэрыялы аб удзеле землякоў у баях пад Масквой, Сталінградам, Ленінградам, абароне Каўказа і інш. (фатаграфіі, дакументы, асабістыя рэчы ген.-палк. М. Н. Нагорнага, І. П. Камеры, ген.-лейт. А. Дз. Пулка-Дзмітрыева, ген.-маёраў А. В. Трусевіча, Г. І. Быліча і інш.), матэрыялы аб узнікненні і разгортванні падполля і партыз. руху ў краі, аб *Мірскім камсамольска-маладзёжным падполлі,* Карэліцкім і Мірскім падп. РК КП(б)Б і ЛКСМБ, радыёпрыёмнік, па якім прымалі зводкі Саўінфармбюро, пішучая машынка, на якой друкаваліся лістоўкі, мед. інструменты партыз. ўрача, падп. газ. *«Сцяг свабоды»* і *«Чырвоны партызан»,* альбомы, прысвечаныя 6 партыз. брыгадам і камсамольска-маладзёжнаму падполлю, фатаграфіі, дакументы, узнагароды сакратара Мірскага падп. РК ЛКСМБ І. М. Мацко, камісара 1-га Камсам. атрада П. А. Жалезняковіча, камандзіра партыз. атрада імя 1 Мая М. С. Заруднева («Залатава») і інш., матэрыялы аб злачынствах ням.-фаш. захопнікаў у раёне. Расказваецца аб вызваленні раёна воінамі 120-й гвардз. стралк. дывізіі (фатаграфіі воінаў-вызваліцелей, у т. л. Героя Сав. Саюза камандзіра дывізіі Я. Я. *Фогеля,* які загінуў пры вызваленні раёна), літаграфія «Я. Я. Фогель» (маст. А. Дзямарын) і бюст Героя Сав. Саюза М. Ф. Гастэлы (скульпт. Л. Гумілеўскі). Філіял — Музей Героя Сав. Саюза У. З. Царука ў в. Вялікая Вобрына Карэліцкага р-на.

*В. У. Чартко.*

**КАРЭ́ЛІЧЫ,** гар. пасёлак, цэнтр Карэліцкага р-на, на р. Рута. За 185 км на ПдУ ад Гродна, 42 км да чыг. ст. Гарадзея на лініі Мінск — Баранавічы; на аўтадарозе Навагрудак — Нясвіж. 26.6.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія забілі ў К. і раёне 1073 жыхароў. Дзейнічалі Карэліцкія падп. райкомы КП(б)Б (ліп. 1943—10.7.1944) і ЛКСМБ (14.12. 1943—10.7.1944), партыз. брыгады «Камсамолец», «25 гадоў БССР», 1-я Баранавіцкая, 1-я Бел. кавалерыйская і асобныя атрады «Громава» і Д. І. Сямёнава (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«Чырвоны партызан».* Вызвалены 8.7.1944 воінамі 120-й гвардз. стралк. дывізіі (ген.-маёр Я. Я. Фогель) і 283-й стралк. дывізіі (палк. В. А. Канавалаў) 41-га стралк. корпуса 3-й арміі 2-га Бел. фронту ў ходзе *Беластоцкай аперацыі 1944.* У К. на Вайсковых могілках пахаваны воіны, якія загінулі пры вызваленні гар. пасёлка, устаноўлены помнік; мемар. комплекс на ўшанаванне памяці сав. воінаў і партызан, у т. л. землякоў; мемар. дошка ў гонар 1-й Баранавіцкай партыз. брыгады. Працуе *Карэліцкі раённы краязнаўчы музей.*

*В. С. Павапіхіна.*



В. П. Карповіч.



С. Дз. Карыцкі.



І. С. Касабуцкі.



А. М. Касаеў.



А. Я. Кастрама.



П. І. Касцюковіч.

**КАСАБУ́ЦКІ** Іван Сцяпанавіч (19.3. 1895, г. Сянно — 15.11.1974), ген.-лейт. (1944). Чл. КПСС з 1926. У арміі з 1915, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў ваен. акадэміі імя Фрунзе (1930), Генштаба (1940). З 1939 выкладчык Ваен. акадэміі Генштаба. У Айч. вайну на Паўн.-Зах., Паўд.-Зах. і 3-м Укр. франтах: камандзір корпуса, нам. камандуючага войскамі фронту. Удзельнік вызвалення Днепрапятроўска, Крывога Рога, фарсіравання Паўд. Буга, Днястра, Яска-Кішынёўскай аперацыі. У 1946—53 на выкладчыцкай рабоце ў Ваен. акадэміі Генштаба.

**КАСА́ЕЎ** Асман Мусаевіч (11.10.1916, аул Хурзук Карачаеўскага р-на Карачаева-Чэркескай аўтаномнай вобл.— 18.2.1944), удзельнік партыз. руху на тэр. Магілёўскай вобл. Герой Сав. Саюза (1965). Чл. КПСС з 1941. Скончыў Кіеўскае арт. вучылішча (1939). У Чырв. Арміі з 193[...] Удзельнік вызвалення Зах. Беларус[...] 1939. У пачатку Айч. вайны на За[...] фронце: нач. артылерыі стралк. пал[...] У партызанах з жн. 1941. З мая 19[...] камісар, з ліп. 1942 камандзір 121-[...] партыз. атрада, з ліст. 1943 — парт[...] палка 121-га (гл. *Партызанскі [...] 121-ы імя А. М. Касаева),* у [...] 1943 — лют. 1944 член Магілёўска[...] падпольнага райкома КП(б)Б. Загі[...] у час варожай бамбардзіроўкі. Пах[...]ваны ў Магілёве. У яго гонар в. Сяр[...]мяжанка Бялыніцкага р-на перайме[...]навана ў в. Асман-Касаева. Яго ім[...] названы вуліцы ў Магілёве, в. Хрыпя[...]лі Магілёўскага р-на, у г. п. Бялы[...]нічы Магілёўскай вобл. ўстаноўлен[...] бюст К.

**КАСТРАМА́** Аляксандр Якаўлевіч ([...] 14.10.1921, в. Валадарск Рэчыцкага р-на), поўны кавалер ордэна Славы. З 1940 працаваў на чыгунцы ў Магі[...]лёве. Партызан-падрыўнік, з 1943 [...] фронце, кулямётчык. Вызначыўся [...] 1943 у баі каля г. п. Парычы Го[...]мельскай вобл., у 1944 пры фарсіра[...]ванні воднага рубяжа і баях на плац[...]дарме ў Польшчы, у 1945 у бая[...] ва Усх. Прусіі.

**КАСТРЫ́ЧНІК,** вёска на тэр. Жлобін[...]скага р-на, знішчаная ням.-фаш[...] акупантамі разам з жыхарамі. Зна[...]ходзілася ў Кароткавіцкім сельса[...]веце. Перад вайной у ёй жыло 42 ча[...] У кастр. 1943, у час карнай апера[...]цыі, фашысты загубілі 15 жыхароў[...] вёску (7 двароў) спалілі. Пасля вайн[...] не адрадзілася. Увекавечана ў мемар[...] комплексе *Хатынь.*

**КАСЦЮКО́ВІЦКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты 23.2.1975. Экспазіцыя, пры[...]свечаная Вял. Айч. вайне, мае 5,2 тыс[...] экспанатаў асн. фонду, пл. 106 м[...] Расказваецца аб абарончых баях во[...]наў 6-й, 132, 137-й стралк., 50-й танк[...] 21-й горна-кав. дывізій і 20-й аві[...] эскадрыллі ў жн. 1941: стралк. збро[...] абмундзіраванне, фатаграфіі, асабіс[...]тыя рэчы, узнагароды, дакументы, ус[...]паміны ўдзельнікаў баёў, у т. л. ка[...]мандзіра 50-й танк. дывізіі Б. С. Ба[...]харава, пушка сістэмы «Гочкінкс» [...] малога танка, копіі баявых данясен[...]няў і інш. Матэрыялы аб узнікненн[...] і разгортванні падполля і партыз. рух[...]

Аперацыяй кіраваў нам. камандзіра партыз. злучэння М. П. *Канстанцінаў*. 9.8.1942 разведка партызан данесла аб выхадзе 300 варожых салдат з 2 пушкамі з в. Катка ў в. Харомцы. Раніцай 10.8.1942 атрады Бумажкова, Пакуша, Краўца і Шантара раптоўным ударам выбілі праціўніка з в. Харомцы. Потым сумесна з атрадам Храпко пераправіліся цераз р. Пціч і з 19 да 22 жніўня разбілі варожыя гарнізоны ў вёсках Халопенічы, Слабодка, Бярозаўка і аваладалі в. Катка. Вёску Харомцы партызаны ўтрымлівалі да снеж. 1943. У выніку гэтай аперацыі Акцябрска-Любанская партыз. зона расшырылася больш чым на 20 кв. км. *Р. А. Чарнаглазава.*


М. П. Катлавец.


Ф. П. Катляр


І. Б. Катунін.


С. А. Каўпак.


І. А. Каўшараў.


Я. І. Качанаў.

**КАТЛАВЕ́Ц** Міхаіл Паўлавіч (25.10.1914, в. Лешня Мазырскага р-на — 6.10.1944), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1943. Скончыў БДУ (1937), курсы мал. лейтэнантаў пры Харкаўскім танк. вучылішчы (1941). У Чырв. Арміі з 1938. З 1941 на Зах., Сталінградскім, 2-м Укр. франтах. Камандзір танк. батальёна капітан К. вызначыўся ў студз. 1944 у баі за ст. Лялекаўка каля Кіраваграда. Батальён пад яго камандаваннем знішчыў 7 танкаў, за дзень адбіў 6 контратак. У час прарыву варожай абароны на румына-венгерскай граніцы 5.10.1944 батальён знішчыў 5 гармат, больш за 100 павозак з боепрыпасамі, узяў у палон 130 гітлераўцаў. Загінуў у баі. Пахаваны ў г. Ціраспаль Малдаўскай ССР. Яго імем названы вуліцы ў Мазыры, Цірaспалі, в. Лешня, 8-гадовая школа ў в. Лешня; на будынку школы мемар. дошка.

**КАТЛЯ́Р** Феадосій Парфір'евіч (27.8.1904, г. Вяземскі Хабараўскага краю — 15.9.1980), Герой Сав. Саюза (1945), ген.-лейт. авіяцыі (1958). Чл. КПСС з 1926. У Чырв. Арміі з 1926. Скончыў ваен. акадэміі імя Фрунзе (1938), Генштаба (1950). Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. З чэрв. 1941 на Паўд., Паўн.-Зах., Варонежскім, Данскім, Паўн.-Каўказскім, Зах., 3-м Бел., 1-м і 2-м Прыбалт. франтах. Камандзір бамбардзіровачнай авіядывізіі ген.-маёр К. зрабіў 118 баявых вылетаў. Дывізія пад яго камандаваннем наносіла ўдары па ворагу пад Віцебскам, Оршай, Барысавам, Мінскам і на вільнюскім напрамку. Да 1960 у Сав. Арміі.

**КАТУ́НІН** Ілья Барысавіч (17.11.1908, Гомель —23.4.1944), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1931. Скончыў Ейскую школу марскіх лётчыкаў (1934). З сак. 1943 у Паўн. флоце. Нам. камандзіра эскадрыллі штурмавога авіяпалка капітан К. вызначыўся 23.4.1944. На падыходзе да цэлі яго самалёт быў падбіты агнём зенітнай артылерыі праціўніка. Палаючай машынай тараніў варожы транспарт водазмяшчэннем 5 тыс. т і патапіў яго. Імем К. названы пасёлак у Архангельскай вобл., вуліцы ў Гомелі, Катуніне; у Гомелі на будынку станкабудаўнічага з-да, дзе ён працаваў, мемар. дошка; яго імя навечна занесена ў спісы рабочых з-да і эскадрыллі.

**КАЎПА́К** Сідар Арцёмавіч (7.6.1887, г. п. Кацельва Палтаўскай вобл.— 11.12.1967), дзярж. дзеяч, адзін з арганізатараў партыз. руху на Украіне. Двойчы Герой Сав. Саюза (1942, 1944). Ген.-маёр (1943). Чл. КПСС з 1919. Удзельнік 1-й сусв. і грамадз. войнаў. У 1937—41 старшыня Пуцівульскага гар. Савета Сумскай вобл. У Вял. Айч. вайну камандзір партыз. атрада, потым злучэння партыз. атрадаў Сумскай вобл. (з студз. 1944 1-я Укр. партыз. дывізія імя Каўпака). Партызаны на чале з К. з баямі прайшлі больш за 10 тыс. км у глыбокім тыле праціўніка па 18 абласцях РСФСР, УССР, у БССР — па Гомельскай, Палескай і Пінскай абл., разбілі 39 гарнізонаў, падарвалі 62 эшалоны, 256 мастоў, знішчылі 96 складоў, 500 аўтамашын, 20 танкаў і бронемашын, тысячы гітлераўцаў. У студз. 1943 на воз. Чырвонае (Жыткавіцкі р-н) партызаны К. сумесна з бел. партызанамі пабудавалі аэрадром. З 1947 нам. Старшыні, з 1967 чл. Прэзідыума ВС УССР, дэп. ВС СССР з 1946. Аўтар кніг «З дзённіка партызанскіх паходаў» (1964), «Ад Пуціўля да Карпат» (1970). Яго імем на Беларусі названы вуліцы ў г. Нароўля і пас. Сосны Любанскага р-на.

**КАЎТУНО́Ў** Георгій Мікітавіч (26.5.1918, с. Арэхаўка Аляксееўскага р-на Куйбышаўскай вобл.—7.5.1987), Герой Сав. Саюза (1944), ген.-лейт. артылерыі (1965). Чл. КПСС з 1941. Скончыў Тбіліскае арт. вучылішча (1939), ваен. акадэміі імя Фрунзе (1951), Генштаба (1956). З вер. 1941 на Паўд.-Зах., Данскім, Сталінградскім, Варонежскім, Цэнтр., 1-м Прыбалт., 3-м Бел. франтах. Удзельнік Сталінградскай і Курскай бітваў, вызвалення Беларусі, Літвы, Латвіі. Вызначыўся пры фарсіраванні Зах. Дзвіны і разгроме полацка-віцебскай групоўкі праціўніка. 24.6.1944 полк пад яго камандаваннем арт. агнём дапамог штурмавой групе пяхоты і артылерыі фарсіраваць раку і развіць наступленне. Служыў у цэнтр. апараце Міністэрства абароны СССР. Ганаровы грамадзянін Віцебска.

**КАЎША́РАЎ** Іван Акімавіч (н. 28.10.1911, в. Глыбоцкае Гомельскага р-на), Герой Сав. Саюза (1941). Чл. КПСС з 1940. Скончыў Арэнбургскую школу ваен. лётчыкаў і лётчыкаў-назіральнікаў (1937), Ваен.-паветр. акадэмію (1944). Удзельнік баёў на р. Халхін-Гол у 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. З чэрв. 1941 па Паўд.-Зах., Ленінградскім, 1-м Бел. франтах, штурман эскадрыллі блізкабамбардзіровачнага авіяпалка, нач. штаба авіяпалка. Лейтэнант К. зрабіў 157 баявых вылетаў па знішчэнню самалётаў на варожых аэрадромах, жывой сілы на пярэднім краі, танкаў і чыг. эшалонаў. З 1961 падпалкоўнік у запасе. Ганаровы грамадзянін г. Ціхвін Ленінградскай вобл.

**«КАЦЮ́ША»**, мемарыяльны комплекс у Оршы ў гонар першага залпа «кацюш» (назва баявых машын рэактыўнай артылерыі), які быў зроблены па ням.-фаш. захопніках 14.7.1941 батарэяй капітана І. А. *Флёрава*. Створаны ў 1966 (арх. Ю. Градаў, В. Занковіч, Л. Левін). Помнік удала ўкампанаваны ў навакольную прастору (мост цераз Дняпро і 17-метровы ад-

**КЖЫ́ВАНЬ** Анэля Тадэвушаўна (1925, Зах. Украіна — 12.10.1943), удзельніца баёў на Беларусі. Герой Сав. Саюза (1943). Полька. У 1943 добраахвотна ўступіла ў жаночую роту аўтаматчыкаў 1-й Польскай дывізіі імя Т. Касцюшкі. Вызначылася пры вызваленні Магілёўскай вобл. 12.10.1943 у час бою каля в. Леніна

М. А. Кедышка. А. Т. Кжывань.



Горацкага р-на несла варту каля аўтамашыны з дакументамі штаба дывізіі. Калі ў час бамбардзіроўкі машына загарэлася, К. кінулася ратаваць дакументы і параненых. Загінула ў агні. Подзвіг К. увекавечаны ў *Музеі савецка-польскай баявой садружнасці*. Яе імем названа вуліца ў в. Леніна Горацкага р-на.

**КІЖАВА́ТАЎ** Андрэй Мітрафанавіч [22.8.1907, с. Селікса (цяпер Кіжаватава) Пензенскага р-на — 29.6.1941], Герой Сав. Саюза (1965). Чл. КПСС з 1939. У Чырв. Арміі з 1929. Нач. 9-й заставы 17-га Брэсцкага пагранатрада лейтэнант К. вызначыўся пры абароне Брэсцкай крэпасці. Воіны пагранзаставы пад яго камандаваннем 22.6.1941 прынялі першы бой, адбілі 6 атак, двойчы пераходзілі ў контратакі. Загінуў у баі, прыкрываючы групу прарыву. У гонар К. перайменавана сяло, дзе ён нарадзіўся. Яго імем названа пагранзастава, цеплаход Дунайскага параходства, вуліцы ў Брэсце, Кам'янцы, Мінску.

**КІ́МБАР** Іосіф Канстанцінавіч (16.9.1905, Мінск — 17.7.1974), ген.-лейт. танк. войск (1945). Чл. КПСС з 1932. У Чырв. Арміі з 1921. Скончыў Ваен. акадэмію бранятанк. войск (1937). У Вял. Айч. вайну на Зах., 1-м Бел. і 1-м Укр. франтах: нач. штаба брыгады, дывізіі, нач. ваен. вучылішча, камандзір танк. корпуса. У 1946—61 камандуючы бранятанк. і механізаванымі войскамі ваен. акругі, 1-ы нам. начальніка цэнтр. афіцэрскіх курсаў «Выстрал».

**КІНО́.** Беларускі кінематограф унёс значны ўклад у стварэнне кіналетапісу Вял. Айч. вайны, увасобіўшы гераічную барацьбу сав. народа з ням.-фаш. захопнікамі. Вядучае месца ў кінематаграфіі ваен. часу займала кінахроніка. Бел. аператары М. Бераў, І. Вейняровіч, У. Цяслюк уваходзілі ў склад франтавых кінагруп Цэнтр. студыі дакументальных фільмаў. Знятыя імі для кінаперыёдыкі кадры былі выкарыстаны і ў дакументальных фільмах «Разгром нямецкіх войск пад Масквой» і «Дзень перамогі» (1942), «Народныя мсціўцы» (1943), «Бой за Віцебск», «Мінск — наш!» і «Бабруйскі кацёл» (1944), таксама ў кінаэпапеі «Вялікая Айчынная» (1979). Бел. кінааператары стварылі кіналетапіс партыз. барацьбы рэспублікі: здымалі баявыя аперацыі партызан Полацка-Лепельскай зоны, Пінскага і Баранавіцкага партыз. злучэнняў, партыз. брыгад «Жалязняк» Мінскай і 123-й Акцябрскай імя 25-годдзя БССР Палескай абл. За франтавыя здымкі Вейняровічу прысуджана ў 1943 Дзярж. прэмія СССР, ён жа, Бераў і Цяслюк узнагароджаны баявымі ордэнамі. У 1942—44 у Маскве на базе Цэнтр. студыі дакументальных фільмаў выпускаўся кіначасопіс «Савецкая Беларусь». У ім адлюстравана барацьба бел. народа на фронце і ў тыле ворага, змешчаны франтавыя матэрыялы, рэпартажы пра злачынствы гітлераўцаў на бел. зямлі: «Наперад, на захад!» (1942, № 1), «Наперадзе — Беларусь» (1943, № 2—3), «На падыходзе да Беларусі» (1943, № 6, 8), «На вызваленай зямлі Беларусі» (1943, № 9—10), «На беларускай зямлі» (1943, № 11). У 1944 групай кінематаграфістаў пад кіраўніцтвам У. Корш-Сабліна і М. Садковіча створаны поўнаметражны дакументальны фільм «Вызваленне Савецкай Беларусі». У ім паказана маштабная аперацыя па разгрому ням.-фаш. захопнікаў на тэр. Беларусі, значнае месца займаюць эпізоды партыз. барацьбы, завяршаўся фільм парадам бел. партызан у вызваленым Мінску. У 1964 і 1975 стужка паўторна выйшла на экраны ў новай рэдакцыі Садковіча, П. Шамшура і В. Сукманава. У 1944 бел. кінагрупа ў Маскве выпусціла фільм-канцэрт «Жыві, родная Беларусь!» (рэж. Корш-Саблін і Садковіч). У 1942 на Цэнтр. аб'яднанай кінастудыі ў Алма-Аце групай творчых работнікаў бел. кіно быў створаны мастацкі фільм пра Айч. вайну — «Беларускі кіназборнік» (рэж. Ю. Тарыч і Корш-Саблін), які складаўся з 2 навел: «Пчолка» (пра партыз. барацьбу на акупіраванай тэр. Беларусі) і «На кліч маці» (пра экіпаж танка «Беларусь», пабудаванага на сродкі сав. патрыётаў).

Тэма Вял. Айч. вайны засталася адной з вядучых для кіно рэспублікі і ў далейшым. Значнай з'явай бел. кінамастацтва пасляваен. часу былі фільмы «Канстанцін Заслонаў» (1949, рэж. А. Файнцымер і Корш-Саблін, Дзярж. прэмія СССР 1950) і «Гадзіннік спыніўся апоўначы» (1958, рэж. М. Фігуроўскі), заснаваныя на рэальных гіст. фактах: стварэнне і дзейнасць падп. групы ў Оршы і партыз. аперацыя па знішчэнню ката бел. народа гаўляйтара Кубэ. Стваральнікам фільма «Канстанцін Заслонаў» удалося раскрыць духоўны паядынак Заслонава (арт. У. Дружнікаў) з гітлераўцамі, паказаць напружанае ўнутранае жыццё чалавека ва ўмовах смяротэльнай небяспекі. Высокія ідэйна-мастацкія вартасці, суровы стыль кінастужкі, вобраз гал. героя, выразныя характары герояў-падпольшчыкаў (Кропля — Г. Глебаў, Крушына — У. Дзядзюшка), псіхалагічна дакладная абмалёўка вобразаў ворагаў абумовілі шырокае прызнанне фільма і за межамі рэспублікі. Праўдзівасцю і глыбінёй трактоўкі цэнтр. вобразаў, пераканаўчым паказам гераічнай барацьбы партызан і падпольшчыкаў, высокім аператарскім майстэрствам (У. Акуліч) вызначаўся фільм «Гадзіннік спыніўся апоўначы».

У фільмах 1960— пач. 1970-х г. кінематаграфісты даследавалі вытокі мужнасці і маральнай стойкасці сав. чалавека, масавы гераізм простых людзей у час вайны. Сярод твораў вылучаліся фільмы рэж. В. Турава «Праз могілкі» (1965, аператар А. Забалоцкі), «Я родам з дзяцінства» (1967) і дылогія «Партызаны» («Вайна пад стрэхамі» і «Сыны ідуць у бой», 1970) па раманах А. Адамовіча, а таксама фільмы, створаныя паводле аповесцей В. Быкава «Трэцяя ракета» (1963, рэж. Р. Віктараў) і асабліва паэтычная «Альпійская балада» (1966, рэж. Б. Сцяпанаў, аператар Забалоцкі, у ролі Джуліі арт. Л. Румянцава).

Для фільмаў 1970-х г. характэрна цяга да шырокага выкарыстання дакументальнай стылістыкі, узаемапранікненне маст. кіно і кінахронікі. Найб. гэта выявілася ў кінаэпапеі «Полымя» (1974, рэж. В. Чацверыкоў), прысвечанай маштабнай Ушацка-Лепельскай аперацыі бел. партызан у 1944. У маст. тканіну апавядання была ўведзена хроніка ваен. гадоў, дзеянне адбывалася ў Стаўцы ВГК, ЦШПР, у асобных атрадах, баявых групах, у падполлі, ням. штабах. Эпічная трактоўка падзей ваен. часу спалучалася з апавяданнем пра ўплыў вайны на чалавечыя душы, на лёс людзей у фільме «Чорная бяроза» (1978, рэж. Чацверыкоў). Тэма інтэрнацыянальнай салідарнасці ў барацьбе з фашызмам прагучала ў фільмах «Заўтра будзе позна» (1973, рэж. М. Цяпак і А. Карпаў) і «Братушка» (1976, рэж. І. Дабралюбаў), знятых разам са славацкімі і балгарскімі кінематаграфістамі, а таксама ў знятым з польск. кінематаграфістамі ў 1987 фільме «Пераправа» (рэж. Тураў). Экранізавана аповесць Быкава «Воўчая зграя» (1975, рэж. Сцяпанаў). Створаны фільм пра вайну з выразна выяўленым паэтычным пачаткам — «Вянок санетаў» (1977, рэж. В. Рубінчык, прэмія Ленінскага камсамола Беларусі 1978).

У 1970—80-я г. кінематаграфісты імкнуцца звязаць ваен. мінулае з сённяшнім жыццём, эпізоды вайны арганічна змыкаліся з сучаснасцю: «Вазьму твой боль» (1981, рэж. М. Пташук, Дзярж. прэмія БССР 1982), «Сад» (1983, рэж. Чацверыкоў). У лепшых фільмах 1980-х г. паказ канкрэтных падзей набліжаецца да шырокіх абагульненняў, выяўляе сацыяльную, маральную, псіхалагічную прыроду ўчынкаў і разважанняў герояў. Найб. поўна гэта выявілася ў фільмах «Знак бяды» паводле аповесці Быкава (1986, рэж. Пташук, у ролі Петрака — Г. Гарбук) і асабліва «Ідзі і глядзі» (1985, рэж. Э. Клімаў, вытворчасць кінастудый «Беларусьфільм» і «Масфільм»), у якім з вял. эмацыянальнай сілай, глыбокімі фі-

**КЛЕЦК**, горад, цэнтр Клецкага р-на, на р. Лань. За 127 км на ПдЗ ад Мінска. Чыг. станцыя на лініі Асіповічы — Баранавічы, аўтадарогамі звязаны з Нясвіжам, Баранавічамі, Слуцкам. 7,9 тыс. жыхароў у 1939. 26.6.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, разбураны. Акупанты забілі ў К. і раёне 7602 чалавек. У горадзе і раёне дзейнічалі падп. Клецкія райкомы КП(б)Б (7.4.1943—3.7.1944) і ЛКСМБ (4.10.1943—3.7.1944), партыз. брыгады 27-я імя Чапаева, 18-я імя Фрунзе, асобныя партыз. атрады 620-ы імя Чапаева, імя Кірава, 200-ы, «Сокалы» (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«За Савецкую Беларусь»*. Вызвалены 4.7.1944 воінамі 219-й танк. брыгады (палк. М. Р. Хлюпін) 1-га механіз. корпуса 1-га Бел. фронту ў ходзе *Мінскай аперацыі 1944*. У К. мемар. комплекс сав. воінам і партызанам, землякам, загінуўшым на франтах і ў партыз. барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў, жыхарам — ахвярам фашызму. Працуе *Клецкі гісторыка-этнаграфічны музей*. *В. С. Паваліхіна.*

**КЛЕЦКІ ГІСТОРЫКА-ЭТНАГРАФІЧНЫ МУЗЕЙ.** Створаны на базе гісторыка-краязнаўчага музея школы № 2, з 1.9.1979 дзяржаўны. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, мае 76 экспанатаў асн. фонду, пл. 18 м². Экспануюцца матэрыялы аб узнікненні і разгортванні падполля і партыз. руху ў раёне: падп. газ. *«За Савецкую Беларусь»*, радыёпрыёмнік, па якім падпольшчыкі прымалі зводкі Саўінфармбюро, зброя, абмундзіраванне, асабістыя рэчы членаў падп. камсам. арг-цыі, фатаграфіі партызан 18-й брыгады імя Фрунзе, 620-га атрада імя Чапаева, атрадаў «Сокалы» і «Авангард», сакратароў Баранавіцкага падп. абкома і Клецкага падп. РК КП(б)Б, падп. РК ЛКСМБ, успаміны сакратара падп. РК КП(б)Б П. А. Бегуна і інш.

Экспанаты аб вызваленні горада і раёна воінамі 219-й танк. брыгады, 48-й, 50-й, 54-й гвардз. стралк. дывізій: фатаграфіі каманднага саставу і воінаў, якія загінулі, у т. л. М. М. Данілава, Героя Сав. Саюза П. С. Кітанкі, Г. М. Корчыкава, фатаграфіі і асабістыя рэчы ўраджэнца раёна ген.-маёра М. М. Макаўчука. Экспануецца карціна І. Грынюка «Хатынь. 1975». *Т. М. Высоцкая.*

**КЛІМАВІЦКАЕ КАМСАМОЛЬСКА-МАЛАДЗЁЖНАЕ ПАДПОЛЛЕ.** Дзейнічала з кастр. 1941 да вер. 1943 на тэр. Клімавіцкага р-на. Аб'ядноўвала 42 чал., 2 групы: Клімавіцкая з 25 чал., кіраўнік В. С. Даніленка; Круглянская з 17 чал., кіраўнік А. Л. Траццякоў, нам. І. К. Чаркасаў; 6 падгруп, на чале якіх былі А. А. Гардзіевіч, К. С. Капаева, Л. Н. Раханскі, М. І. Сталяроў, Р. К. Чаркасава, Г. М. Яйцова. Вясной 1942 цераз сясцёр Аляксандру і Анастасію Блахіных і М. Ф. Лепятуміну была наладжана сувязь паміж групамі. Цэнтрам явак сталі цырульня, дзе працаваў Сталяроў, і фотаатэлье — месца работы Гардзіевіча.

Падпольшчыкі распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі; у маі 1942 наладзілі сувязь з 2-й Клятнянскай, 5-й Воргаўскай партыз. брыгадамі Смаленскай вобл., з восені 1942 — з *партызанскім атрадам 45-м «За Радзіму»* Магілёўскай вобл. Перадавалі ім звесткі пра рух пояздоў на чыгунцы Крычаў — Унеча, перадыслакацыю вайсковых часцей, аўтакалон праціўніка, падрыхтоўку карных аперацый супраць партызан і насельніцтва, бланкі пропускаў, пасведчанняў, пашпартоў, медыкаменты і перавязачны матэрыял, зброю і боепрыпасы. Толькі ў садзе Капаевых было схавана і перададзена партызанам 40 вінтовак, 2 скрынкі патронаў, ручны кулямёт і гранаты. Падпольшчыкі праводзілі агітацыйную работу сярод насельніцтва, ваеннапалонных, у гарнізонах вайсковых падраздзяленняў праціўніка, дзякуючы чаму ў партыз. атрад 45-ы былі накіраваны вял. групы моладзі, ваеннапалонных, 18 чал. з варожых фарміраванняў. Ад партызан патрыёты атрымлівалі газеты, лістоўкі, якія змяшчалі інфармацыю пра становішча на франтах, размнажалі іх і распаўсюджвалі сярод насельніцтва. Падпольшчыкі разам з партызанамі правялі аперацыю па захопу рэзідэнта германскай разведкі.

У барацьбе з акупантамі загінулі: К. П. Ананьеў, С. І. Белавусаў, Я. І. Белашчантаў, П. Н. Гайдукоў, В. Дз. Галемскі, А. А. Гардзіевіч, В. С. Даніленка, Я. І. Курэпіна, Л. І. Лукашэвіч, Л. Лычагін, І. Руткоўская, Ю. М. Травінскі, Я. Дз. Чаркасава, Я. Х. Чаркасава, Дз. К. Чаркасаў, І. К. Чаркасаў, Г. М. Яйцова, М. Ц. Яфімава. *Р. М. Купчэня.*

**КЛІМАВІЦКІ РАЁННЫ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ.** Адкрыты 24.7.1984. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, мае 140 экспанатаў асн. фонду, пл. 40 м². Расказваецца аб баях 132-й, 137-й стралк. і 21-й горна-кав. дывізій 45-га стралк. корпуса ў жн. 1941, удзеле землякоў у абароне Брэсцкай крэпасці: схема абарончых баёў, зброя, абмундзіраванне, знакі Ленінградскага камуніст. батальёна, стужка ветэранаў і альбом 6-й Чырванасцяжнай стралк. дывізіі, кніга С. С. Бірузова «Калі грымелі пушкі». Матэрыялы аб узнікненні і разгортванні падполля і партыз. руху ў раёне (лістоўка «Голас партызана», фотакопія падп. газ. *«За Советскую Родину»*, баявая зброя, дакументы, асабістыя рэчы, узнагароды, успаміны, пісьмы партызан і падпольшчыкаў, у т. л. камандзіра партыз. атрада 45-га «За Радзіму» У. І. Маркава, сакратара падп. РК КП(б)Б І. С. Салдаценкі, партызанкі Л. П. Асмалоўскай, падпольшчыка А. А. Гардзіевіча, матэрыялы аб *Клімавіцкім камсамольска-маладзёжным падполлі* і інш.). Дакументы і матэрыялы аб злачынствах ням.-фаш. захопнікаў у раёне (2 стэлы з назвамі спаленых вёсак і агульнай лічбай страт раёна ў час Вял. Айч. вайны). Расказваецца аб вызваленні горада і раёна воінамі 110-й, 238, 324, 369, 413-й стралк. дывізій (карта вызвалення раёна, баявая зброя, фатаграфіі, узнагароды і асабістыя рэчы воінаў-землякоў, Герояў Сав. Саюза І. С. *Нікалаева*, А. З. *Петушкова*, М. А. *Старавойтава*, Дз. М. *Цырубіна* і інш., поўных кавалераў ордэна Славы А. В. *Кляцко*, І. К. *Купрыенкі*). Экспануюцца карціны «Бой пад Мілаславічамі» (маст. Л. Асядоўскі), «На заданне» (маст. У. Шпартаў), «Вызваленне» (маст. Л. Ціткоў), бюсты Герояў Сав. Саюза Нікалаева, Цырубіна, Дз. П. *Жмуроўскага*, ген.-маёра Э. Я. *Магона*, які загінуў у час абарончых баёў на тэр. раёна. *Л. М. Андрушкова.*

М. А. Кісляк. І. Ф. Клімаў.



**КЛІМАВІЧЫ**, горад, цэнтр Клімавіцкага р-на. За 124 км на ПдУ ад Магілёва, чыг. станцыя на лініі Орша — Унеча, аўтадарогамі звязаны з Крычавам, Касцюковічамі, Хоцімскам. 9,6 тыс. жыхароў у 1939. 10.8.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў горадзе і раёне 1346 чал., вывезлі на катаргу ў Германію 1192 чал. У горадзе і раёне дзейнічалі *Клімавіцкае камсамольска-маладзёжнае падполле*, Клімавіцкія падп. РК КП(б)Б (12.6—30.7.1943) і ЛКСМБ (25.5—30.9.1943), партыз. брыгада 13-я Касцюковіцкая, партыз. атрады 2-і Хоцімскі, 45-ы «За Радзіму», 110-ы, «Алеся», «Ананава», «Валянціна Маёрава», «Чапай» (гл. адпаведныя арт.), выдавалася падп. газ. *«За Советскую Родину»*. Вызвалены 28.9.1943 воінамі 238-й стралк. дывізіі (ген.-маёр І. Д. Краснаштанаў) 46-га стралк. корпуса 50-й арміі Бранскага фронту ў ходзе *Бранскай аперацыі 1943*. У вызваленні горада ўдзельнічаў асобны партыз. атрад 45-ы «За Радзіму» (камандзір У. І. Маркаў). У К. 5 брацкіх магіл сав. воінаў, на якіх пастаўлены помнікі, мемар. дошка вызваліцелям. Працуе *Клімавіцкі раённы краязнаўчы музей*. *В. В. Гетаў.*

**КЛІМАЎ** Іван Фролавіч (н. 10.9.1903, в. Касцюкоўка Гомельскага р-на), парт. і дзярж. дзеяч БССР, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Мінскай і Вілейскай абл. Засл. работнік куль-

туры БССР (1980). Чл. КПСС з 1925. Скончыў Камуніст. ун-т Беларусі (1931), ВПШ пры ЦК ВКП(б) (1949). З 1923 на прафс., камсам. і парт. рабоце. З 1940 1-ы сакратар Вілейскага абкома КП(б)Б. З ліст. 1941 да мая 1942 сакратар Ташкенцкага абкома КП(б) Узбекістана. У 1942—44 выконваў заданні ЦК КП(б)Б на акупіраванай тэр. Мінскай і Вілейскай абл., у чэрв.— ліст. 1942 сакратар Мінскага, у снеж. 1942 — крас. 1943— Вілейскага абкомаў партыі (у сав. тыле). З мая 1943 да ліп. 1944 1-ы сакратар *Вілейскага падпольнага абкома КП(б)Б.* З 1944 сакратар Вілейскага, Маладзечанскага, Баранавіцкага абкомаў партыі. З 1953 1-ы нам., у 1962 нам. Старшыні СМ БССР. У 1968—74 нам. Старшыні Прэзідыума ВС БССР. З 1974 навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі партыі пры ЦК КПБ, у 1980—86 старшыня Камісіі па справах б. партызан і падпольшчыкаў пры Прэзідыуме ВС БССР. Чл. ЦК КПБ у 1949—76, чл. Бюро ЦК КПБ у 1953—66, чл. Рэвізійнай камісіі КПБ у 1976—86. Дэп. ВС СССР у 1954—66, ВС БССР у 1947—75, 1980—85. Аўтар кн. «Далёкае і блізкае» (1987), «Партызаны Вілейшчыны» (разам з М. Е. Гракавым, 2 выд., 1970), адзін з аўтараў кн. «Людзі Нарачанскага краю» (1975).

**КЛІМЯНО́К** Максім Аляксандравіч (н. 15.5.1902, в. Ніжнія Жары Брагінскага р-на), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Вілейскай вобл. Герой Сацыяліст. Працы (1966). Чл. КПСС з 1937. У 1928—41 старшыня калгасаў імя Кірава, «Рухавік рэвалюцыі» і інш. Брагінскага р-на. У партызанах з жн. 1943: камісар атрада, у крас.— ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады імя М. І. Калініна,* адначасова чл. Міёрскага падп. РК КП(б)Б. З 1945 на гасп. і сав. рабоце. У 1953—71 старшыня калгаса імя Чапаева Глыбоцкага р-на. Званне Героя прысвоена за атрыманне высокіх ураджаяў лёну. Дэп. ВС БССР у 1967—71.

**КЛІНО́ЦКІ БОЙ 1942,** бой партызан 208-га атрада (гл. ў арт. *Партызанскі полк 208-ы імя І. В. Сталіна)* супраць ням.-фаш. войск, якія праводзілі карную экспедыцыю ў Кліноцкім лесе Чэрвеньскага р-на 5—7.3.1942.

У пачатку сак. 2 палкі пяхоты гітлераўцаў акружылі каля 400 партызан у лесе за 6 км на Пн ад в. Клінок. Карнікаў падтрымлівалі авіяцыя і артылерыя. 5 сакавіка пасля паветр. разведкі і арт.-мінамётнай падрыхтоўкі гітлераўцы пачалі наступленне на партыз. лагер. Не маючы дакладных звестак пра размяшчэнне партызан, атакуючыя падраздзяленні праціўніка папалі пад перакрыжаваны вінтовачна-кулямётны агонь флангаў партыз. абароны, страцілі больш за 50 салдат і афіцэраў і былі адкінуты на зыходныя пазіцыі. Са здабытых на полі бою ням. дакументаў і карт партызаны ўдакладнілі размяшчэнне сіл праціўніка, устанавілі найбольш слабыя месцы варожага акружэння і за ноч на 6 сак. перанеслі месца дыслакацыі на 5 км на Пн., вывезлі туды параненых, боепрыпасы, узрыўчатку, гаручае і занялі абарону. На месцы старога лагера партызаны выставілі заслон з 2 узводаў, якія 2 дні стрымлівалі націск карнікаў.

Раніцай 7 сак. гітлераўцы пасля 2 гадз арт. падрыхтоўкі і бамбардзіроўкі ўступілі ў лес, але былі контратакаваны з флангаў і спынены, пры гэтым панеслі вял. страты ў жывой сіле. Увечары 7 сак. партыз. атрад на чале з палк. У. І. Нічыпаровічам зрабіў прарыў у напрамку в. Чырвоны Кастрычнік Пухавіцкага р-на. У начным баі нар. мсціўцы рассеялі засадную групу фашыстаў, знішчылі мінамётную батарэю, 4 кулямётныя гнязды, перасеклі шашу Чэрвень — Пухавічы і выйшлі з акружэння ў напрамку чыг. ст. Градзянка, страціўшы ў баях з праціўнікам 20 байцоў забітымі і паранеными і знішчылі каля 300 гітлераўцаў. Не дасягнуўшы поспеху, гітлераўцы жорстка расправіліся з мясцовым насельніцтвам: спалілі в. Лужыца разам з жыхарамі.

*В. С. Лазебнікаў, У. С. Пасэ.*

**«КЛІЧ ПАРТЫЗА́НА»,** назва № 23 за 23.2.1944 газ. *«Народный мститель»,* органа Дзісненскага падп. РК КП(б)Б.

**«КЛІЧ ПАРТЫЗА́НА»,** газета, орган Міёрскага падп. РК КП(б)Б. Выдавалася з сак. 1943 да мая 1944. Вядомы № 31 і 33 за жн. і кастр. 1943 на бел. мове. Пасля вызвалення са снеж. 1944 «Бальшавіцкая трыбуна», з 1952 «Зара камунізма», з 1962 «Сцяг працы», орган Міёрскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«КЛІЧ ПАРТЫЗА́НА»,** бюлетэнь Вілейскага падп. абкома КП(б)Б. Вядомы № 2 за сак. 1944 на рус. мове.

**«КЛІЧ РАДЗІ́МЫ»,** газета, заснавана ў 1931 пад наз. «Бальшавіцкі змагар». У час ням.-фаш. акупацыі орган Ельскага падп. РК КП(б)Б. Вядомы № 1 за 19.9.1943. Рэдактар І. А. Кравец. Пасля вызвалення выдавалася пад назвай «Калгаснае жыццё», з 1962 «Ленінская праўда», орган Ельскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«КЛІЧ РАДЗІ́МЫ»,** газета, заснавана ў 1932 пад наз. «Калгаснік Любаншчыны». У час ням.-фаш. акупацыі орган Любанскага падп. РК КП(б)Б. Вядома 39 нумароў за 9.4.1943—9.6.1944 на бел. мове. Рэдактары: Г. В. Сыцько (да мая 1943), А. Дз. Сакевіч (да вер. 1943), І. В. Куляшоў (з вер. 1943). З 1962 «Будаўнік камунізму», орган Любанскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**КЛІ́ЧАЎ,** гар. пасёлак, цэнтр Клічаўскага р-на, на р. Ольса. За 91 км на ПдЗ ад Магілёва, за 7 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў — Асіповічы, аўтадарогамі звязаны з Бабруйскам, Магілёвам, Асіповічамі, Беразіном. 5.7.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў К. і раёне 504 чал. 14.7.1941 на адкрытым раённым парт. сходзе, які адбыўся ў лесе пад К., быў пакладзены пачатак стварэння Клічаўскага партыз. атрада — аднаго з першых у вобласці (гл. *Партызанскі полк 277-ы).* У снеж. 1941 арганізаваны яшчэ адзін партыз. атрад (пазней 128-ы атрад *партызанскай брыгады 14-й Цемналескай).* У выніку партыз. барацьбы з восені 1941 былі вызвалены ад гітлераўцаў многія населеныя пункты, у т. л. і К. Да сярэдзіны сак. партызаны ачысцілі ад акупантаў амаль усю тэр. Клічаўскага р-на. 20.3.1942 партызаны разграмілі ў К. гарнізон ворага, аднавілі тут Сав. ўладу, стварылі *Клічаўскую партызанскую зону.* Гітлераўцы неаднаразова спрабавалі ліквідаваць зону, часова захапілі К. У крас. 1943 партызаны грамілі ням.-фаш. гарнізон у К. (гл. таксама *Клічаўскія баі 1942, 1943*). У К. быў створаны першы на Беларусі партыз. аэрадром, 15 і 19 ліп. 1942 сав. самалёты даставілі партызанам, якія вялі цяжкія баі з гітлераўцамі, зброю і боепрыпасы, а на Вял. зямлю эвакуіравалі цяжкапараненых байцоў (гл. *Партызанскія аэрадромы).* Дзейнічаў *Клічаўскі аператыўны цэнтр.* У К. і на тэр. раёна дзейнічалі Клічаўскі падп. РК КП(б)Б (4.4.1942—28.6.1944), выканком раённага Савета, падп. РК ЛКСМБ (24.4.1942—28.6.1944), *Клічаўская ваенна-аператыўная група,* партыз. брыгады 8-я Рагачоўская, 11-я Быхаўская, 61-я, партыз. палкі 113-ы, 152-і, 208-ы імя Сталіна, 255-ы, 537, 810-ы, асобныя партыз. атрады 25-ы, 115, 128-ы, 252-і, 257-ы, 258, 620-ы імя Чапаева, 720-ы, 760-ы імя М. Беразоўскага (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«Голас партызана».* Канчаткова вызвалены 28.6.1944 воінамі 348-й стралк. дывізіі (ген.-маёр М. А. Нікіцін) і інш. часцей 35-га стралк. корпуса (ген.-маёр В. Р. Жолудзеў) 3-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе *Бабруйскай аперацыі 1944* ва ўзаемадзеянні з партызанамі Клічаўскага р-на. У К. брацкія магілы сав. воінаў, партызан, ахвяр фашызму; на іх пастаўлены помнікі; насыпаны курган Славы ў гонар партызан і сав. воінаў-вызваліцеляў; пастаўлены помнікі ў гонар вызвалення К. партызанамі 20.3.1942 і аднаўлення Сав. улады, на месцы прызямлення першага самалёта з Вял. зямлі; мемар. дошка Герою Сав. Саюза П. А. *Крываносу.* Працуе *Клічаўскі музей народнай славы. Н. У. Капранава.*

**КЛІ́ЧАЎСКАЕ ПАРТЫЗА́НСКАЕ ЗЛУЧЭ́НЕ,** гл. ў арт. *Клічаўскі аператыўны цэнтр.*

**КЛІ́ЧАЎСКАЯ ВАЕ́ННА-АПЕРАТЫ́ЎНАЯ ГРУ́ПА;** Клічаўская ВАГ. Ваенна-аператыўная група пры Клічаўскім падпольным райкоме КП(б)Б, партыз. злучэнне, якое дзейнічала на акупіра-

кінскім лесе», «Разгром варожага гарнізона ў Клічаве 20.3.1942 г.», «Партызанскі аэрадром» (маст. А. Шкляр), карціна «Пасяджэнне падпольнага райкома камсамола» (маст. Э. Белагураў). Філіял — Усакінскі мемар. комплекс (адкрыты ў 1985).

*Л. Л. Ачыновіч.*

**КЛІЧАЎСКІЯ БАІ 1942, 1943,** баі партыз.

А. А. Клопаў. Я. У. Клумаў. К. Кляйнюнг. А. В. Кляцко. А. Я. Кляшчоў. В. А. Князеў.



фарміраванняў Магілёўскай вобл. супраць ням.-фаш. захопнікаў у г. п. Клічаў 20.3.1942 і 21.4.1943.

У выніку баявых дзеянняў партызан Магілёўскай вобл. ў сак. 1942 ням.-фаш. акупанты былі выгнаны амаль з усёй тэр. Клічаўскага, часткова Асіповіцкага і Кіраўскага р-наў, у г. п. Клічаў быў блакіраваны варожы гарнізон (каля 250 гітлераўцаў).

У ноч на 20.3.1942 партыз. атрады завяршылі падрыхтоўку да аперацыі па разгрому Клічаўскага гарнізона. Галоўны ўдар па цэнтры пасёлка наносілі атрады Клічаўскі (камандзір А. С. Юркаўцаў; гл. ў арт. *Партызанскі полк 277-ы*) і В. І. Ліўенцава (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 1-я Бабруйская),* якія былі ўзброены вінтоўкамі, аўтаматамі, а таксама мелі гармату і 3 кулямёты, з Пн — атрад В. П. Свістунова (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 14-я Цемналеская).* Шляхі магчымага адыходу праціўніка і прыбыцця варожых падмацаванняў кантралявалі атрады 620-ы (В. М. Сырцоў; гл. *Партызанскі атрад 620-ы імя В. І. Чапаева)* і частка атрада Свістунова.

На досвітку 20.3.1942 партызаны з двух бакоў уварваліся ў пасёлак. Узвод партызан на чале з І. К. Віталем і П. М. Віктарчыкам выбіў ворага з будынка былога райвыканкома. Частка гарнізона ўпарта супраціўлялася на паўднёвай ускраіне пасёлка, спрабавала прабіцца да дарогі на Бабруйск, частка замацавалася ў 2-павярховым з цэглы будынку школы, бой за якую цягнуўся 3 гадзіны. У выніку 12-гадзіннага бою Клічаў быў поўнасцю вызвалены, забіта каля 120 акупантаў, каля 50 захоплена ў палон, захоплена зброя праціўніка. У баі загінула 11, паранена 13 партызан. З разгромам гарнізона ў Клічаве завяршылася вызваленне ўсяго Клічаўскага р-на ад ням.-фаш. захопнікаў, была створана *Клічаўская партызанская зона,* партызаны атрымалі магчымасць прымаць самалёты з Вял. зямлі. На працягу 3 месяцаў пасля сакавіцкага бою 1942 партызаны ўтрымлівалі Клічаў. У ліп. 1942 пад націскам пераўзыходзячых сіл праціўніка яны былі вымушаны пакінуць пасёлак.

Бой за Клічаў у крас. 1943 быў часткаю плана, распрацаванага камандаваннем *Магілёўскай ваенна-аператыўнай групы* (ВАГ) пры Магілёўскім падп. абкоме КП(б)Б, па знішчэнню ням.-фаш. гарнізонаў. Каардынаваў дзейнасць партыз. брыгад нач. штаба Магілёўскай ВАГ С. Г. *Сідарэнка-Салдаценка.* Клічаўскі гарнізон (каля 200 гітлераўцаў) меў на ўзбраенні гармату, 4 мінамёты, каля 20 кулямётаў і інш. зброю, быў умацаваны некалькімі дзотамі, сістэмай акопаў.

У адпаведнасці з планам партыз. брыгада 2-я Клічаўская ва ўзаемадзеянні з партыз. брыгадай 5-й Клічаўскай і ротай партыз. брыгады 1-й Клічаўскай у 3 гадз раніцы 21 крас. пачала наступаць на Клічаў з Пд, уздоўж правага берага р. Ольса, партыз. брыгада 5-я Клічаўская (атрады 61-ы, 620, 760-ы) — уздоўж цэнтра пасёлка. Ведаючы пра канцэнтраванне партызан 277-га атрада 2-й Клічаўскай брыгады ў раёне зыходнага становішча, гітлераўцы спрабавалі знішчыць атрад. Партызаны прынялі бой і разграмілі ворага. У 4 гадз раніцы 21.4.1943 партызаны пры падтрымцы арт. і мінамётнага агню ўварваліся ў Клічаў і занялі яго, за выключэннем умацаваных пазіцый гарнізона. Аднак праціўнік атрымаў падмацаванне, выкліканая авіяцыя правяла масіраваную бамбардзіроўку. Паводле загаду камандавання ВАГ партызаны адышлі. У выніку бою гітлераўцы страцілі забітымі і паранемымі каля 70 салдат і афіцэраў. Партызаны захапілі 3 кулямёты, мінамёт, 37 вінтовак, у баі страцілі 3 чал. У гонар баявых дзеянняў партызан у 1942 у Клічаве ў 1967 насыпаны курган Славы, пастаўлены помнік у 1957.

*А. І. Валахановіч, Р. А. Чарнаглазава, М. Ф. Шумейка.*

**КЛО́ПАЎ** Аніс Андрэевіч (н. 14.5.1914, в. Наваселле, Ушацкі р-н), поўны кавалер ордэна Славы. З 1941 на Зах., Калінінскім, 1-м Прыбалт. і 3-м Б… франтах. Камандзір сапёрнага ад… лення мал. сяржант К. вызначыўся … баях ва Усх. Прусіі. 10.1.1945 ра… ніраваў варожае міннае поле шы… нёю 40 м; 16.2.1945 адзін з пер… фарсіраваў р. Штрадык і знішчы… кулямёта каля 20 гітлераўцаў; у кр… 1945 у час прарыву абароны на … дыходзе да Кёнігсберга зрабіў пра… у мінным полі, разам з пяхотай у… ваўся ў варожыя траншэі і знішчы… 13 гітлераўцаў, паранены працяг… бой. Удзельнік Парада Перамогі 19… Жыве ў г. п. Ушачы.

**КЛУ́МАЎ** Яўген Уладзіміравіч (па… Самарын; 16.12.1876, Масква — 10.… 1944), бел. сав. вучоны ў галіне … рургіі і гінекалогіі, удзельнік *Мін… га партыйнага падполля.* Герой С… Саюза (1965). Канд. мед. на… (1935), прафесар (1938). Скончы… Маскоўскі ун-т (1902). З 1905 зе… ўрач у Рэчыцкім павеце. У гады … сусв. і грамадз. войнаў хірург і … шпіталяў на Зах. фронце. З 1921 … мед. установах Мінска. З восені 19… у гар. бальніцы. Памагаў паране… падпольшчыкам і партызанам, ляч… сав. патрыётаў, забяспечваў падпо… шчыкаў і многія партыз. атр… медыкаментамі, хірургічнымі інстр… ментамі, поўнасцю абсталяваў … партыз. шпіталі. У кастр. 19… арыштаваны, адмовіўся супрац… нічаць з акупантамі. Загінуў у ф… душагубцы разам з жонкай Г. … Клумавай, якая дапамагала яму … падп. дзейнасці. У Мінску яго і… названы вуліца, завулак, сярэд… школа № 67 і 3-я клінічная бальні… на будынку якой устаноўлена мем… дошка.

**КЛЮ́ЧНІК** Станіслаў Савелье… (20.5.1912, в. Сёмкава Мінска… р-на — 23.6.1984), адзін з кіраўні… партыз. руху ў Мінскай і Бара… віцкай абл. Чл. КПСС з 1943. З 19… на камсам. рабоце. З чэрв. 1941 … фронце. У партызанах з кастр. 19… радавы, камандзір групы, нач. шта… з мая 1943 камандзір атрада, у лі… 1943 — ліп. 1944 камандзір *партыз… скай брыгады імя М. А. Шчор…* У 1944—72 на гасп. рабоце ў Мінс…

**КЛЯВА́КІН** Павел Цімафее…

гвардз. стралк. корпуса 61-й арміі: 12-я Пінская гвардз. (палк. Дз. К. Малькоў) і 212-я Крычаўская (палк. У. Г. Кучынёў) стралк. дывізіі пры падтрымцы часткай сіл 271-й начной бамбардзіровачнай авіяц. дывізіі (падпалк. К. І. Расказаў) 16-й паветр. арміі. Яны фарсіравалі р. Мухавец і з Пд і У уварваліся ў горад, дзе пасля 4-гадзіннага бою выбілі ворага з горада. 12 часцям фронту, якія вызначыліся ў баях за горад, загадам ВГК ад 25.7.1944 прысвоены ганаровыя найменні «Кобрынскіх» (гл. *Кобрынскія вайсковыя часці*), 12-я гвардз. і 212-я стралк. дывізіі ўзнаг. ордэнамі Чырв. Сцяга. У К. 3 брацкія магілы сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі; помнік Вызваления, героям «Рэйкавай вайны», на месцы расстрэлу сав. патрыётаў і жыхароў; мемар. дошкі падпольшчыкам, танкістам. Працуе ваенна-гістарычны музей імя А. В. Суворава.

*М. І. Камінскі.*

**КО́БРЫНСКІЯ ВАЙСКО́ВЫЯ ЧА́СЦІ.** За вызваленне г. Кобрын (20.7.1944) у ходзе *Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944* загадам ВГК ад 25.7.1944 наймення «Кобрынскіх» удастоены 12 вайсковых часцей 1-га Бел. фронту.

Часці, якім нададзены найменні «Кобрынскіх»: 29-ы гвардз. (падпалк. І. П. Мохаў), 37-ы гвардз. (падпалк. І. С. Калеснікаў), 369-ы (падпалк. У. Р. Валошчанка), 669-ы (маёр А. І. Дзеравянка) і 692-і (палк. І. М. Падбярэзін) стралк. палкі, 31-ы гвардз. (палк. Д. А. Аўралёў), 60-ы гвардз. карпусны (палк. А. П. Суслаў), 533-і армейскі знішчальны проціданк. (маёр М. П. Говараў) і 655-ы (маёр Н. Ц. Ларычаў) арт. палкі, 1282-і армейскі зенітны арт. полк (падпалк. Дз. К. Барысаў), 222-і (маёр Д. П. Родзін) і 229-ы (маёр Я. Н. Навумаў) інж. сапёрныя батальёны.

*М. І. Камінскі.*

**КО́ЖАР** Ілья Паўлавіч (3.8.1902, в. Малое Гальцэва Талачынскага р-на — 13.10.1967), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Гомельскай вобл., парт. дзеяч БССР. Ген.-маёр (1943). Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1926. Скончыў ВПШ пры ЦК ВКП(б) (1949). З 1924 на сав. і парт. рабоце. З 1940 рэдактар газ. «Гомельская праўда», сакратар Гомельскага абкома КП(б)Б. У жн. 1941 — ліст. 1943 сакратар *Гомельскага падпольнага абкома КП(б)Б*, адначасова з ліст. 1942 камандзір *Гомельскага партызанскага злучэння*. З 1943 сакратар Гомельскага абкома КП(б)Б, у апараце ЦК КП(б)Б. У 1947—63 дырэктар Рэсп. парт. школы пры ЦК КПБ (з 1956 Мінскай ВПШ). Чл. ЦК КПБ у 1952—61. З 1961 член, у 1963—66 старшыня Рэвіз. камісіі КПБ. Дэп. ВС БССР у 1951—63, 1967. Яго імем названы вуліца ў Гомелі, Коханаўская сярэдняя школа ў Талачынскім р-не; на будынках Мінскай ВПШ і Коханаўскай сярэдняй школы мемар. дошкі.

І. П. Кожар. І. С. Козіч.



А. Ф. Колесава. М. М. Кольчак.



М. Дз. Конанаў. І. С. Конеў.



**КО́ЗІНЦАЎ** Іван Архіпавіч (21.11.1901, в. Паўлаўка Ельскага р-на — 16.7.1942), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Палескай вобл. Чл. КПСС з 1928. У грамадз. вайну ў партыз. атрадзе, які дзейнічаў на тэр. Ельскага р-на. З 1937 сакратар Ельскага РК КП(б)Б. З 23.8.1941 да 16.7.1942 сакратар Ельскага падп. РК КП(б)Б. Загінуў у баі. Яго імем названа вуліца ў г. Ельск; на будынку Рамязоўскай сярэдняй школы ў Ельскім р-не мемар. дошка.

**КО́ЗІЧ** Іван Сямёнавіч (н. 3.3.1920, в. Старыя Маргі Уздзенскага р-на), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1942. У Чырв. Арміі з 1938. З 1941 у ППА Масквы, на Бранскім, Цэнтр., Бел., 1-м Бел. франтах. Лётчык-знішчальнік К. зрабіў 423 баявыя вылеты, правёў 31 паветр. бой, збіў 20 самалётаў, з іх 4 у групавых баях. З 1950 маёр К. у запасе.

**КО́ЗЫР** Уладзімір Герасімавіч (н. 1.1.1920, в. Барыскавічы Мазырскага р-на), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсам.-маладзёжнага падполля і партыз. руху ў Палескай вобл. Чл. КПСС з 1941. Скончыў ВПШ пры ЦК КПСС (1953). З ліп. 1941 на падп. рабоце ў тыле ворага. Са жн. 1941 член, з 18.10.1942 да 1.10.1943 сакратар Акцябрскага падп. РК ЛКСМБ; з 9 лют. член, з 1.10.1943 да 6.7.1944 сакратар *Палескага падпольнага абк*… *ЛКСМБ*. З 1944 на камсам., па… і сав. рабоце. Дэп. ВС БСС… у 1955—59.

**КО́КАРАЎ** Дзмітрый Васіл… (30.10.1918, с. Юр'ева Піцелінс… р-на Разанскай вобл.— 12.10.19… удзельнік баёў на Беларусі ў пача… вайны. Чл. КПСС з 1941. У пер… дзень вайны ў 5 гадз раніцы ка… дзір звяна 124-га знішчальнага … палка мал. лейтэнант К. у ра… г. Замбраў Беластоцкай вобл. та… ніў самалёт праціўніка. Загінуў у … ветр. баі за Ленінград.

**КО́ЛЕСАВА** Алена Фёдараў… (8.6.1920, в. Колесава Яраслаўск… р-на — 11.9.1942), удзельніца парт… руху ў Мінскай вобл. Герой С… Саюза (1944). Чл. КПСС з 1942. … 1941 медсястра, удзельніца аба… Масквы; з групай разведчыц неадн… чы пераходзіла лінію фронту … дыверсійнай работы ў варожым ты… З 1.5.1942 камандзір дыверсій… групы ў Барысаўскім і Крупс… р-нах, якая ўзарвала мост, 11 эша… наў (7 разам з інш. групамі), 3 аўт… машыны, разграміла 6 гарнізонаў … рага. Загінула ў баі каля в. Выдр… Крупскага р-на. Пахавана … г. п. Крупкі, на магіле помнік. Яе і… названы школа і вуліца ў Крупка… калгас у Крупскім р-не.

**«КОЛХО́ЗНАЯ ПРА́ВДА»**, назва ў вер.— ліст. 1942 газ. *«За Родину»*, орга… Віцебскага падп. РК КП(б)Б.

**КО́ЛЬЧАК** Мікалай Мікалаев… (12.7.1905, г. Іванава Брэсцка… вобл.— 14.2.1969), Герой Сав. Са… (1945). Чл. КПСС з 1944. У Чыр… Арміі з 1919. Удзельнік грама… вайны. Скончыў Ленінградскую пя… школу (1928). З 1937 выкладчык курсаў «Выстрал», нач. снайперскай школы. З 1944 камандзір стралк. палк… на 3-м Бел. фронце. Полк пад камандаваннем палкоўніка К. вызначыўся 15—17.8.1944 у баях за выхад на граніцу з Усх. Прусіяй, дзе адбіў 10 контратак праціўніка, знішчыў 11 танкаў, 13 аўта- і бронемашын, 12 кулямётаў, 2 артбатарэі і больш за 500 гітлераўцаў. Да 1946 у Сав. Арміі, потым у сістэме Міністэрства вышэйшай адукацыі СССР.

**КОМАЛАЎСКІ БОЙ 1942,** бой партызан 125-га атрада імя Сталіна (гл. *Партызанская брыгада імя І. В. Сталіна)* супраць ням.-фаш. акупантаў каля раз'езда Комалава Дзяржынскага р-на на лініі Мінск — Баранавічы 19.6.1942. Блокпост Комалава, які ахоўваў участак чыгункі Негарэлае — Коласава, быў добра ўмацаваны і пераўтвораны гітлераўцамі ў дот. Аперацыяй па знішчэнню блокпаста кіраваў камандзір партыз. атрада С. А. Рыжак. У разгар бою на дапамогу акружаным у будынку блокпаста гітлераўцам высадзілася падмацаванне з варожага эшалона, які накіроўваўся на фронт. Партызаны каля 1,5 гадз вялі няроўны бой з намнога большымі сіламі праціўніка. Партызан І. Я. Някрасаў прабраўся праз калючы дрот да дота і закідаў гранатамі варожых кулямётчыкаў. Атрад выйшаў з-пад агню. У выніку бою спалены будынак блокпаста, знішчаны танк, процітанкавая гармата, 15 бочак гаручага, 2 радыёстанцыі, забіты 24 і паранены 30 гітлераўцаў. У баі загінулі камандзір атрада Рыжак, яго ад'ютант В. А. Арцёмаў і нач. штаба М. І. Яраслаўцаў, 6 партызан паранена.

**КОМАР** Герасім Лявонавіч (20.3.1904, в. Букіно Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл. — 19.10.1964), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1926. У партызанах з крас. 1942: камісар атрада, з снеж. 1942 *партызанскай брыгады 2-й Клічаўскай*, у сак. — ліп. 1943 *партызанскай брыгады 9-й Кіраўскай.* З лют. 1943 член, у ліп. 1943— чэрв. 1944 сакратар Кіраўскага падп. РК КП(б)Б, адначасова з крас. 1944 чл. Магілёўскага падп. абкома КП(б)Б. Пасля вайны на парт., сав., адм.-гасп. рабоце.

**КО́МЛЕЎ** Васіль Паўлавіч (н. 31.12. 1918, с. Верхатор Ішымбайскага р-на Башкірскай АССР), адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Віцебскай вобл. Канд. эканамічных навук (1959). Чл. КПСС з 1941. Скончыў ВПШ пры ЦК ВКП(б) (1949). З ліп. 1941 на фронце, пам. нач. аператыўнага аддзела штаба арміі. У партызанах з 1941: з сак. 1942 камандзір атрада. З кастр. 1942 у распараджэнні БШПР. З мая 1943 камандзір арганізацыйнай групы, атрада, у вер. 1943 — чэрв. 1944 — *партызанскай брыгады 2-й імя К. С. Заслонава.* Пасля вайны нам. старшыні Віцебскага аблвыканкома, на гасп. рабоце ў Багушэўскім р-не. З 1960 ст. выкладчык, дацэнт, з 1967 прарэктар, з 1972 заг. кафедры Бел. ін-та нар. гаспаркі імя Куйбышава.

**КО́НАНАЎ** Міхаіл Дзмітрыевіч (23.1. 1906, г. п. Бобр Крупскага р-на — 19.5.1972), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1942. Скончыў Ленінградскі хіміка-тэхналагічны ін-т (1937), Ленінградскую вышэйшую афіцэрскую бранятанк. школу (1951). Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну з 1941 на Ленінградскім, 1-м Бел. франтах. Удзельнік абароны Ленінграда, вызвалення Эстоніі, Польшчы, баёў у Германіі. Камандзір танк. батальёна К. вызначыўся ў студз. 1944 у Ленінградскай вобл. Яго батальён прарваўся ў тыл і дэзарганізаваў абарону ворага. 17—25.1.1944 знішчыў 5 танкаў, 29 гармат, 9 дзотаў, 18 кулямётных кропак і каля 300 гітлераўцаў. Да 1959 у Сав. Арміі, падпалкоўнік. Яго імем названа вуліца ў г. п. Бобр.

**КО́НЕЎ** Іван Сцяпанавіч (28.12.1897, в. Ладзейна Падасінаўскага р-на Кіраўскай вобл. — 21.5.1973), Маршал Сав. Саюза (1944), двойчы Герой Сав. Саюза (1944, 1945), Герой ЧССР (1970), Герой МНР (1971). Чл. КПСС з 1918. У арміі з 1916, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1934). У 1934—37 служыў у БВА. У Айч. вайну камандуючы 19-й арміяй, войскамі Зах., Калінінскага, Паўн.-Зах., Сцяпнога, 2-га і 1-га Укр. франтоў. Войскі пад яго камандаваннем удзельнічалі ў абароне Віцебска, у Смаленскай, Маскоўскай, Курскай бітвах, у бітве за Дняпро (гл. адпаведныя артыкулы), у Корсунь-Шаўчэнкаўскай, Львоўска-Сандамірскай, Вісла-Одэрскай, Берлінскай і Пражскай аперацыях. З 1945 галоўнакамандуючы Цэнтр. групай войск і вярх. камісар па Аўстрыі. З 1946 галоўнакамандуючы Сухапутнымі войскамі і нам. міністра Узброеных Сіл СССР. З 1950 гал. інспектар Сав. Арміі — нам. ваен. міністра, камандуючы войскамі Прыкарпацкай ваен. акругі. У 1955—60 1-ы нам. міністра абароны СССР, адначасова галоўнакамандуючы Аб'яднанымі Узброенымі Сіламі дзяржаў — удзельніц Варшаўскага Дагавора. У 1960—61 і з 1962 генеральны інспектар Групы генеральных інспектараў МА СССР. Канд. у чл. ЦК КПСС у 1939—52, чл. ЦК у 1952—73. Дэп. ВС СССР у 1937—73. Чл. ВЦВК у 1931—34. Сярод дзярж. узнагарод ордэн «Перамога». Аўтар кн. «Сорак пяты» (2 выд., 1970), «Запіскі камандуючага фронтам, 1943—1944» (4 выд., 1985). Пахаваны на Краснай плошчы. У г. Рэчыца яго імем названа вуліца; на доме, дзе ён жыў у 1934—37, устаноўлена мемар. дошка.

**КО́ПАНКА,** вёска на тэр. Ельскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2,5 км на Пн ад в. Кочышчы Кашчанскага сельсавета. Перад вайной у ёй жылі 262 чал. 18.7.1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 186 жыхароў (у т. л. 86 дзяцей), вёску (62 двары) спалілі, маёмасць разрабавалі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1974 на магіле ахвяр фашызму, на месцы спаленай вёскі, пастаўлены помнік. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**КО́ПЫСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала ў 1941—44 у г. п. Копысь Аршанскага р-на. Аб'ядноўвала больш за 40 чал. Складалася з 3 груп на чале з камуністамі Я. А. Точыным і Ц. Р. Марозавым, камсамолкамі сёстрамі А. М. і З. М. Шэвень. Падпольшчыкі здабывалі звесткі аб праціўніку і перадавалі іх партызанам, праводзілі дыверсіі: спалілі маслазавод і паліцэйскі ўчастак, выводзілі са строю тэхніку былой МТС, знішчылі некалькі правакатараў. Мелі радыёпрыёмнік, запісвалі зводкі Саўінфармбюро, размнажалі іх і распаўсюджвалі сярод насельніцтва. У 1943 фашысты высачылі групы Марозава і Точына, у 1944 — групу сясцёр Шэвень. Акупанты арыштавалі і закатавалі А. Г. Зубоўскага, Г. А. Ларыёнава, Ц. Р. Марозава, Я. А. Точына, П. І. Чарвякова, А. М. Шэвень, З. М. Шэвень і інш. У Копысі ў гонар падпольшчыкаў у 1976 устаноўлена мемар. дошка.

П. Ю. Корбут. В. З. Корж.



**КО́РБУТ** Пётр Юльянавіч (29.9.1908, Пінск — 4.2.1944), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1928. У Чырв. Арміі з 1931. Скончыў Ваен. акадэмію механізацыі і матарызацыі Чырв. Арміі (1941). З чэрв. 1941 на Зах., Паўд., 4-м Укр. франтах. Камандзір танк. брыгады палкоўнік К. вызначыўся ў лют. 1944 у баі на Нікапальскім плацдарме. Брыгада пад яго камандаваннем удзельнічала ў прарыве варожай абароны, знішчыла 6 танкаў, 12 самаходных, 47 палявых гармат, 79 кулямётаў, 22 аўтамашыны. Загінуў у баі. Пахаваны ў Мелітопалі. Яго імем названа вуліца ў Пінску.

**КОРЖ** Васіль Захаравіч (партыз. псеўд. К а м а р о ў; 1.1.1899, в. Хорастава Салігорскага р-на—5.5.1967), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху на Беларусі. Ген.-маёр (1943). Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1929. Скончыў Ваен. акадэмію Генштаба (1949). Удзельнік партыз. руху ў Зах. Беларусі ў 1922—25, нац.-рэв. вайны ў Іспаніі 1936—39.

З 1940 заг. сектара Пінскага абкома КП(б)Б. Арганізаваў і ўзначаліў адзін з першых на Беларусі партыз. атрадаў, які з чэрв. 1941 вёў баі з фашыстамі. Увосень 1941 на чале атрада разам з партызанамі Палесся і Міншчыны прайшоў рэйдам па раёнах Палескай і Мінскай абл. Чл. *Пінскага падпольнага абкома КП(б)Б* і камандзір *Пінскага партызанскага злучэння.* У 1949—53 нам. міністра лясной гаспадаркі БССР, потым да 1963 старшыня калгаса «Партызанскі край» Салігорскага р-на. Імем К. названы вуліцы ў Мінску, Пінску, Салігорску, яго імя прысвоена калгасу на радзіме, сярэдняй школе ў Пінску; у в. Хорастава помнік.

**КО́РЗУН** Андрэй Рыгоравіч (12.12. 1911, в. Дуброва Нараўлянскага р-на — 5.11.1943), Герой Сав. Саюза (1944). На фронце з 1941. Удзельнік абароны Ленінграда. 5.11.1943, калі гарматны разлік выйшаў са строю, адзін працягваў весці агонь. Цяжка паранены накрыў сабой скрынку з арт. зарадамі, якая загарэлася, цаной свайго жыцця папярэдзіў выбух. Яго імем названы школа ў в. Дуброва і вуліца ў г. Нароўля, на будынку школы мемар. дошка.

**КО́РЗУН** Павел Пятровіч (4.8.1892, в. Клешаў Слуцкага р-на — 16.9. 1943), ген.-лейт. (1942). Чл. КПСС з 1930. У арміі з 1913, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1936). З 1936 нам. камандзіра і камандзір дывізіі, ст. выкладчык акадэміі. У Айч. вайну на Бранскім, Паўд.-Зах. і Варонежскім франтах: камандзір корпуса, камандуючы арміяй. Загінуў у баі. Яго імем названа вуліца ў Слуцку.

**КО́РНЕЎ** Леанід Сямёнавіч (1915, в. Спас-Слабада, Полацкі р-н — 20.10. 1944), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1942. На фронце з 1942. Нам. камандзіра батальёна па палітчастцы ст. лейтэнант К. вызначыўся 5.9.1944. З групай байцоў фарсіраваў р. Нараў (Польшча) і кіраваў пераправай батальёна, які захапіў плацдарм і адбіваў варожыя контратакі. Памёр ад ран.

**КО́РЧЫЦ** Уладзіслаў Вікенцьевіч (1.9. 1893, в. Багдановічы, Слонімскі р-н — 17.10.1966), ген.-палкоўнік (1946). Чл. КПСС з 1942. У арміі з 1914, у Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік 1-й сусв. і грамадз. войнаў. У Айч. вайну на Паўн.-Зах фронце: камандзір дывізіі, нач. штаба арміі. З 1944 у Войску Польскім: нач. штаба, каманд. 1-й арміяй на 1-м Бел. фронце. У 1945—54 нач. Генштаба Войска Польскага, адначасова з 1950 віцэ-міністр Нац. абароны ПНР. З 1954 у Сав. Саюзе.



А. Р. Корзун.



П. П. Корзун.



Л. С. Корнеў.



У. В. Корчыц.



В. А. Кот.



Ф. П. Котчанка.

**КО́САВА,** К о с а ў, горад у Івацэвіцкім р-не. За 15 км на ПнЗ ад Івацэвіч, 13 км ад чыг. ст. Косава-Палескае на лініі Брэст — Баранавічы, аўтадарогамі звязаны з Ружанамі, Івацэвічамі, Бярозай. У 1940—47 цэнтр Косаўскага р-на. 3,7 тыс. жыхароў у 1939. 25.6.1941 часці 30-й танк. дывізіі (палк. С. І. Багданаў) 4-й арміі Зах. фронту вялі цяжкія баі на рубяжы Косава — Івацэвічы. 26.6.1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў К. і раёне 3112 чал. У К. і раёне дзейнічалі *Косаўская раённая антыфашысцкая арганізацыя,* Косаўскі раённы антыфашысцкі камітэт, Косаўскія падп. райкомы КП(б)Б (чэрв. — 12.7. 1944) і ЛКСМБ (1.9. 1943—12.7. 1944), партыз. брыгады «Савецкая Беларусь», імя Дзяржынскага, імя Панамарэнкі (Брэсцкая вобл.), імя Панамарэнкі (Беластоцкая вобл.), 8-я, 99-я імя Дз. Ц. Гуляева, асобныя партыз. атрады імя Шчорса, імя Кутузава, імя Катоўскага (2-га складу), імя Чапаева, імя Варашылава, імя І. Ф. Топкіна, «Храбрацы» (гл. адпаведныя артыкулы). У ноч. на 3.8.1942 партызаны разграмілі ў К. гарнізон ворага і амаль месяц утрымлівалі горад (гл. *Косаўскі бой 1942).* Вызвалены 11.7.1944 войскамі 19-й механіз. брыгады (палк. У. В. Яршоў) і 75-га самаходна-арт. палка (падпалк. П. Я. Карпенка) 28-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе наступлення на баранавіцка-брэсцкім напрамку. У К. пастаўлены помнікі: на брацкай магіле сав. воінаў і партызан, магіле партызана У. І. Палешчука і М. Ф. Трынды, у гонар Косаўскага бою 1942. *Н. У. Капранав*

**КО́САЎСКАЯ РАЁННАЯ АНТЫФАШЫСЦКАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ.** Дзейнічала з крас. 1942 да ліп. 1944 на тэр. Косаўскага р-на. Уваходзіла ў *Брэсцкую абласную антыфашысцкую арганізацыю.* Створана на базе падп. патрыятычных груп, якія ўзніклі ў першыя месяцы вайны. Складалася з ячэек, аб'яднаных у падраёны. Арг-цыю ўзначальваў к-т у складзе камуністаў М. Ф. Трынды («Майскі», 1-ы сакратар), былых чл. КПЗБ А. М. Міціча («Волкаў«, 2-і сакратар) і В. Т. Радзюка. Сакратары к-та ўстанавілі сувязь з падпольшчыкамі-антыфашыстамі Слонімскага р-на і аказалі дапамогу ў стварэнні *Слонімскай раённай антыфашысцкай арганізацыі.*

Падпольшчыкі збіралі і перадавалі партызанам зброю і боепрыпасы, харчы, медыкаменты, адзенне. Праводзілі агітац. работу сярод насельніцтва, у вёсках, дзе не было пастаянных гарнізонаў праціўніка, у 1942 правялі 31, у 1943 — 20 сходаў. Удзельнічалі ў разгроме варожага гарнізона ў Косаве (гл. *Косаўскі бой 1942),* у маі 1943 спалілі млын у в. Альба, парушалі варожую сувязь, спільвалі тэлеграфныя слупы, палілі і разбіралі масты. Сумесна з партызанамі і пры актыўнай дапамозе ўсяго насельніцтва перакапалі дарогі Косава — Ружаны, Косава — Пружаны і інш., рабілі на іх завалы (ліст. 1943, люты і май 1944). У Косаве на доме, дзе праходзілі пасяджэнні к-та, у 1975 устаноўлена мемар. дошка. *В. У. Скалабан.*

**КО́САЎСКІ БОЙ 1942,** бой партыз. атрада імя Г. Дзімітрава (гл. *Партызанская брыгада імя П. К. Панамарэнкі*), асобнага *партызанскага атрада імя М. А. Шчорса,* асобнага *партызанскага атрада імя К. Я. Варашылава* (І. С. Зайкоў) супраць ням.-фаш. захопнікаў у г. Косава 3.8.1942.

Фаш. гарнізон Косава пастаянна рабіў грабежніцкія і карныя акцыі супраць мясцовага насельніцтва, перакрываў падыходы да шашы Брэст — Слонім і да чыгункі Брэст — Мінск. Разгрому гарнізона папярэднічала старанная двухтыднёвая падрыхтоўка, у ходзе якой партызаны выяўлялі сілы праціўніка, размяшчэнне яго агнявых кропак, сістэму аховы аб'ектаў. У аперацыі ўдзельнічала

каў — жыхароў г. п. Краснаполле, вёсак Турэйск, Маластоўка, Вял. Хутары, б. ваеннаслужачых. Патрыёты мелі цесныя сувязі з *партызанскім атрадам 41-м* і *партызанскай брыгадай 47-й «Перамога»*. Узначальваў падполле камандзір Чырв. Арміі камуніст С. П. Паршын, пакінуты парт. органамі для арг-цыі падп. барацьбы на тэр. раёна. Явачнай кватэрай



Б. І. Коўзан. І. М. Краснік. С. А. Красоўскі. А. Ц. Краўцоў. Р. Ц. Кротаў. М. К. Круглікаў.

з'яўлялася гадзіннікавая майстэрня ў Краснаполлі, дзе працаваў Паршын. Па заданню партызан М. А. Епішаў і М. С. Вішнякоў былі накіраваны на службу ў паліцыю. У ліст. 1942 яны знішчылі тэлефонную сувязь у паліцыі і камендатуры, раскідалі лістоўкі, якія друкаваліся падпольшчыкамі з лета 1942 на пішучай машынцы. Камсамолец І. П. Галярка працаваў тэхнікам на мясцовым радыёвузле, слухаў зводкі Саўінфармбюро і перадаваў іх змест падпольшчыкам. 7.11.1942 у дзень 25-й гадавіны Вял. Кастрычніка ён настроіў апаратуру радыёвузла на Маскву і ўключыў у трансляцыйную сетку. Фашысты арыштавалі патрыёта і 7.12.1942 павесілі ў в. Выдранка. Падпольшчыкі перадавалі партызанам разведданыя, атрымлівалі ад іх лістоўкі і газеты. *М. Ф. Шумейка.*

**КРА́СНАЎКА,** вёска на тэр. Жлобінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на ПдУ ад в. Кароткавічы. Перад вайной у ёй жыло 69 чал. У кастр. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 45 жыхароў, у т. л. 3 дзяцей, вёску (10 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1977 у в. Кароткавічы пастаўлена стэла, дзе ўвекавечаны спаленыя вёскі, у т. л. Краснаўка. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**«КРА́СНАЯ ЗАРЯ́»,** газета, заснавана ў 1939 пад наз. «Чырвоная зара». У час ням.-фаш. акупацыі орган Драгічынскага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 24 нумары за 25.10.1943 — 26.3.1944 на рус. мове. Рэдактар Я. П. Пчолка. Пасля вызвалення выдавалася пад наз. «Чырвоная зорка», з 1963 «Запаветы Леніна», орган Драгічынскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**КРА́СНІК** Іван Міхайлавіч (30.7.1906, в. Іванск Чашніцкага р-на — 18.2.1957), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1930. У Чырв. Арміі з 1928. Скончыў Мінскае арт. вучылішча (1932). З чэрв. 1941 на Зах., Калінінскім, Ленінградскім і 1-м Бел. франтах. Вызначыўся ў баях 16—22.4.1945. Полк самаходных гармат пад камандаваннем падпалкоўніка К. прарваў варожую абарону, авалодаў участкам шашы Франкфурт — Берлін, адбіў 12 контратак, знішчыў 24 танкі і самаходныя гарматы, 51 гармату, 87 мінамётаў, 49 кулямётаў, 24 дзоты праціўніка. Да 1956 у Сав. Арміі, палкоўнік.

**КРА́СНІЦА,** вёска на тэр. Івацэвіцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на З ад в. Выганашчы (цэнтра сельсавета). Перад вайной у ёй жыло больш за 90 чал. 10.9.1942, у час карнай аперацыі *«Балотная ліхаманка»*, фашысты (8-ы і 10-ы палкі 1-й матарызаванай брыгады СС) загубілі 90 жыхароў, вёску (16 двароў) спалілі, маёмасць разрабавалі, жывёлу забралі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1950 на месцы вёскі пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**«КРАСНОАРМЕ́ЙСКАЯ ПРА́ВДА»,** назва газеты Зах. (1941—44) і 3-га Бел. (1944—45) франтоў.

**«КРА́СНОЕ ЗНА́МЯ»,** газета, заснавана ў 1941 пад наз. «Праўда працы». У час. ням.-фаш. акупацыі орган Відзаўскага падп. РК КП(б)Б. Выходзіла ў лют. 1943— ліп. 1944. Вядома 7 нумароў за крас.— ліп. 1944 на рус. мове. Рэдактар У. І. Каднікаў. Пасля вызвалення выдавалася да 1960 пад наз. «Чырвоны сцяг», орган Відзаўскага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**«КРА́СНОЕ ЗНА́МЯ»,** газета, заснавана ў 1932 пад наз. «Чырвоны сцяг». У час ням.-фаш. акупацыі орган Краснапольскага падп. РК КП(б)Б. Вядома 13 нумароў за 20.6—27.9.1943 на рус. мове. Рэдактар Х. Калімулін. Назва № 1—13 за 20.6—28.8.1943 «Партизанская правда». Пас вызвалення выдаецца пад наз. «Чыр воны сцяг», орган Краснапольска РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«КРА́СНОЕ ЗНА́МЯ»,** назва № 1—3 з 1944 газ. *«Знамя победы»*, орга *Лапскага падпольнага міжрайко КП(б)Б.*

**«КРА́СНОЕ ЗНА́МЯ»,** газета, заснавана ў 1943, орган Скідзельскага па РК КП(б)Б. Вядомы 24 нумары за 11.12.1943—2.7.1944 на рус. мов Рэдактар А. Р. Паўлюткін. Выдавалася да 1962 як орган Скідзельскага РК КПБ і раённага Савета дэ працоўных.

**«КРА́СНОЕ ЗНА́МЯ»,** газета, заснавана ў 1935. У час ням.-фаш. акупацы орган Халопеніцкага падп. РК КП(б)Б. Вядома 39 нумароў за 22.2. 1943—6.6.1944 на рус. мове. Рэдактар В. А. Захарэвіч. Выдавалася да 196 пад наз. «Чырвоны сцяг», орган Халопеніцкага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**«КРА́СНОЕ ЗНА́МЯ»,** газета, заснавана ў 1939 пад наз. «Сцяг працы». У час ням.-фаш. акупацыі орган Шчучынскага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 61 нумар за 26.6.1943—5.6.1944 н рус. мове. Рэдактар Г. Дз. Шыла Пасля вызвалення выдавалася пад наз. «Чырвоны сцяг», з 1962 «Савецкая вёска», орган Шчучынскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«КРА́СНЫЙ ПАРТИЗА́Н»,** газета, орган Васілішкаўскага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 4 нумары за 3—30.5.1944 н рус. мове. Рэдактар А. А. Патапа Пасля вызвалення выдавалася да 1960 пад наз. «Ленінскі шлях», орга Васілішкаўскага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**«КРА́СНЫЙ ПАРТИЗА́Н»,** газета, орган камандавання і парт. арг-цыі *партызанскай брыгады «Дзядзькі Ко* Мінскай вобл. Вядома 37 нумароў з 12.9.1942—15.5.1944.

**«КРА́СНЫЙ ПАРТИЗА́Н»,** назва № 1 з 18.4.1943 газ. *«За Советскую Родину»*, органа Старадарожскага пад РК КП(б)Б.

**КРАСО́ЎСКІ** Сцяпан Акімавіч (20.

1897, в. Глухі Быхаўскага р-на — 21.4. 1983), Герой Сав. Саюза (1945), маршал авіяцыі (1959). Прафесар (1966). Чл. КПСС з 1918. Скончыў Ваен.-паветр. інж. акадэмію імя Жукоўскага (1936). У арміі з 1916, у Чырв. гвардыі з 1917, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз., сав.-фінл. 1939—40 войнаў. У Вял. Айч. вайну на Паўд., Бранскім, Паўд.-Зах., Варонежскім і 1-м Укр. франтах: камандуючы ВПС 56-й арміі, Бранскага фронту, 2-й і 17-й паветр. арміямі. Удзельнічаў у баявых аперацыях на Каўказе, у Сталінградскай і Курскай бітвах, у вызваленні Украіны, Польшчы, Чэхаславакіі, у Вісла-Одэрскай, Берлінскай і Пражскай аперацыях. Вызначыўся ўмелым камандаваннем авіяцыяй і арганізацыяй яе ўзаемадзеяння з наземнымі войскамі. Пасля вайны камандуючы ВПС акруг, паветр. арміяй, у 1955—56 у БВА, з 1956 нач. Ваен.-паветр. акадэміі імя Гагарына, з 1968 у Міністэрстве абароны СССР. Чл. Цэнтр. рэвізійнай камісіі КПСС у 1961—66. Чл. ЦК КПБ у 1956—60. Аўтар кн. «Жыццё ў авіяцыі» (3 выд., 1976).

**КРАЎЦО́Ў** Альгерд Ціханавіч (н. 6.7. 1912, в. Забалоцце Буда-Кашалёўскага р-на), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1941. Скончыў Ленінградскае ваен.-інж. вучылішча (1938), Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1950). З 1942 на Паўд.-Зах., Сталінградскім, Данскім, Варонежскім і 1-м Укр. франтах. Камандзір матарызаванага пантонна-маставога батальёна маёр К. вызначыўся пры фарсіраванні Віслы каля г. Баранаў-Сандамерскі і ў баях за плацдарм. Ноччу 2.8.1944 пад варожым агнём арганізаваў пераправу танкаў і артылерыі цераз раку. 4.8.1944 сіламі батальёна адбіў варожыя контратакі, да падыходу сав. танкаў і пяхоты ўтрымліваў пераправу і рубеж. Да 1961 у Сав. Арміі, палкоўнік.

**КРО́ТАЎ** Раман Цімафеевіч (н. 1.1. 1923, в. Рэкта Слаўгарадскага р-на), поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПСС з 1957. З чэрв. 1943 у 10-й Жыравіцкай партыз. брыгадзе, з кастр. 1943 на фронце. Разведчык радавы К. вызначыўся ў баях за вызваленне Украіны, Польшчы і Венгрыі: 3.5. 1944 першым узняўся ў атаку, знішчыў 9 гітлераўцаў, паранены працягваў бой; 15.7.1944 знішчыў 12 гітлераўцаў, 1 узяў у палон; 14.3.1945, знаходзячыся ў разведцы, выявіў на ПдЗ ад Будапешта вял. колькасць пяхоты і танкаў праціўніка.

**КРУ́ГЛАЕ,** гар. пасёлак, цэнтр Круглянскага р-на, на р. Друць. За 65 км на ПнЗ ад Магілёва, за 19 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша — Мінск, вузел аўтамабільных дарог на Магілёў, Шклоў, Талачын, Бялынічы. 8.7.1941 К. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў К. і раёне 3379 чал. У К. і на тэр. раёна дзейнічалі *Круглянскае партыйна-камсамольскае падполле,* Круглянскія падп. райкомы КП(б)Б (13.3.1943—29.6.1944) і ЛКСМБ (23.3.1943—29.6.1944), партыз. брыгада 8-я Круглянская, партыз. фарміраванні *Круглянскай ваенна-аператыўнай групы,* а таксама партыз. брыгада «Чэкіст», атрады *Шклоўскай ваенна-аператыўнай групы;* выдавалася падп. газ. *«Партизанский путь».* Вызвалена 28.6.1944 воінамі 1-га асобнага гвардз. матацыклетнага палка (маёр С. І. Штольберг) 5-й гвардз. танк. арміі 3-га Бел. фронту ў ходзе *Беларускай аперацыі 1944.* У К. брацкія магілы сав. воінаў і партызан, ахвяр фашызму, на якіх пастаўлены помнікі; помнікі ў гонар загінуўшых землякоў і ў гонар падпольшчыкаў.

*Н. У. Капранава.*

**КРУ́ГЛАЕ,** вёска на тэр. Ельскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 4 км на ПнЗ ад в. Чэрвень Качышчанскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 47 чал. 18.7.1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 41 жыхара, у т. л. 24 дзяцей, вёску (15 двароў) спалілі, маёмасць разрабавалі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1972 на магіле ахвяр фашызму, пахаваных на месцы спаленай вёскі, пастаўлены помнік. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**КРУ́ГЛІКАЎ** Мікіта Кононавіч (19.5. 1914, в. Залессе Чачэрскага р-на — 8.12.1943), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС. Скончыў Харкаўскае танк. вучылішча (1943). На фронце з ліп. 1943. Камандзір танк. ўзвода лейтэнант К. вызначыўся ў баях пад Кіевам. Ноччу 4.11.1943 узвод атакаваў апорны пункт ворага, правёў разведку боем, з ходу ўварваўся ў размяшчэнне праціўніка, вызваліў пас. Святошына і адрэзаў шлях адступлення праціўніку па шашы Кіеў — Жытомір. У баі за вызваленне пасёлка К. з экіпажам танка знішчыў 3 процітанк. гарматы, 2 аўтамашыны, 3 мінамёты. Загінуў у баі. Пахаваны ў с. Медзялёўка Радамышльскага р-на Жытомірскай вобл. Яго імем названа вуліца ў Чачэрску.

**КРУГЛЯ́НСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з ліп. 1941 да снеж. 1943 у г. п. Круглае і Круглянскім р-не пад кіраўніцтвам Круглянскага падп. РК КП(б)Б (з сак. 1943). Больш за 70 падпольшчыкаў. Першыя падп. групы створаны ў Круглым С. М. Сухоцкім і С. З. Казловым, у вёсках Ліхінічы — Л. Н. Ракушавым, Слабодка — Я. В. Бендзікам. Да восені 1941 узніклі групы ў вёсках Пасырава, Радча, Ражкі і інш. 25.10.1941 і ў канцы студз. 1942 на нарадах прадстаўнікоў груп аформлена адзіная Круглянская падп. парт.-камсам. «Арганізацыя барацьбітоў за вызваленне Радзімы» («АБЗВР»), выбраны яе штаб у складзе П. І. Аляксеева, Н. С. Радзько, Л. Н. Ракушава (кіраўнік), Н. М. Ракушавай (нач. штаба) і інш., зацверджаны кіраўнікі груп.

Падпольшчыкі вялі паліт. работу сярод насельніцтва, распаўсюджвалі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, падтрымлівалі сувязь з партыз. брыгадамі 8-й Круглянскай, «Чэкіст», магілёўскай падп. арг-цыяй «Камітэт садзеяння Чырвонай Арміі» (гл. *Магілёўскае партыйна-камсамольскае падполле*) з падпольшчыкамі суседніх раёнаў. Здабывалі для партызан зброю, харчы, медыкаменты, перадавалі ім звесткі пра абарончыя ўмацаванні, перадыслакацыю, узбраенне ворага, уладкоўвалі сваіх людзей ва ўстановы акупац. улад, папярэджвалі партызан пра карныя аперацыі. Летам 1942 спалілі ў Круглым друкарню і склад збожжа, увосень 1942 — 500 т прасаванага сена, нарыхтаванага акупантамі для адпраўкі ў рэйх, у чэрв. 1943 — маслазавод у в. Слабодка і бензасклад у Круглым; у кастр. 1942 зрабілі дыверсію на льнозаводзе. Сістэматычна псавалі тэлефонна-тэлеграфную сувязь з Талачыном і Магілёвам; 25.10.1941 па дарозе на Талачын на адлегласці ў некалькі кіламетраў спілавалі тэлеграфныя слупы, перарэзалі правады. У кастр. 1943 перагналі з ням. маёнтка да партызан статак кароў. Пад уплывам агітацыі падпольшчыкаў рабочыя Круглянскага льнозавода псавалі абсталяванне, затрымлівалі зборку машын, пуск з-да; сяляне зрывалі пастаўкі сыравіны для прадпрыемстваў, харчовых прадуктаў і збожжа для варожай арміі, перадавалі прадукты партызанам. У выніку растлумачальнай работы падпольшчыкаў некалькі дзесяткаў салдат варожых фарміраванняў перайшлі да партызан. Пасля масавых арыштаў у снеж. 1943 «АБЗВР» спыніла дзейнасць, падпольшчыкі пайшлі ў партызаны.

У барацьбе з акупантамі загінулі: Я. В. Бендзік, А. Б. і Н. Б. Болдзісавы, А. І. Дарошкаў, А. М. Зіньковіч, С. З. Казлоў, Ф. К. Комлеў, Я. К. Крывіцкі, Л. І. і Ц. К. Крывялёвы, Б. Б. Кузьмін, Н. П. Лазарчук, Л. Н. і М. А. Ракушавы, І. П. Рылькоў, С. М. Сухоцкі, А. С. Цітова, В. П. Цішураў, І. В. Чорны.

*Л. В. Аржаева.*

**КРУГЛЯ́НСКАЯ ВАЕ́ННА-АПЕРАТЫ́ЎНАЯ ГРУПА,** Круглянская ВАГ, Ваенна-аператыўная група пры Круглянскім падпольным райкоме КП(б)Б, партыз. злучэнне, якое дзейнічала на акупіраванай тэр. Круглянскага, Бярэзінскага, Шклоўскага р-наў Магілёўскай вобл., Крупскага р-на Мінскай, Талачынскага р-на Віцебскай абласцей; таксама назва органа кіраўніцтва гэтым злучэннем. Уваходзіла ў *Магілёўскае партызанскае злучэнне.*

Створана ў жн. 1943 у адпаведнасці з пастановай Магілёўскага падп. абкома КП(б)Б і загадам Магілёўскай (абласной) ВАГ на базе 36-га, 8, 24, 28, 12, 30-га атрадаў расфарміраванай *партызанскай брыгады 8-й Круглянскай.* У снеж. 1943 36-ы і 12-ы атрады перададзены партыз. брыгадзе 8-й Брэсцкага партыз. злучэння. Кіраўніцтва ВАГ: сакратар падп. РК КП(б)Б П. С. Новікаў, камандзіры С. Г. Жунін (жн.—снеж. 1943), І. Г. Ільін (снеж. 1943 — чэрв. 1944), нач. штаба

К. І. Мацеж (жн.— снеж. 1943), Ц. М. Лупека (снеж. 1943 — чэрв. 1944). Камандзіру ВАГ Жуніну прысвоена званне Героя Сав. Саюза. 29.6.1944 ВАГ (1753 партызаны) злучылася з Чырв. Арміяй.

**КРУ́ЗЕ** (Крус) Апалон Якаўлевіч (15.12.1892, Пецярбург — 6.5.1967), ген.-лейт. (1949). Чл. КПСС з 1939. Беларус. У арміі з 1912. У Чырв. гвардыі з 1917, у Чывр. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1941). З ліп. 1943 на Варонежскім, Сцяпным, 2-м і 3-м Укр. франтах: камандзір дывізіі, нам. камандзіра і камандзір стралк. корпуса. Удзельнік фарсіравання Інгула, Дняпра, Паўд. Буга, Днястра, Яска-Кішынёўскай аперацыі, баёў за Будапешт, Браціславу. Да 1958 у Сав. Арміі.

**КРУК** Цімафей Карнеевіч (22.12.1906, в. Пратасы Акцябрскага р-на — жн. 1947), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1943. З 1928 у Чырв. Арміі. З вер. 1941 сувязны Мінскага камуніст. падполля. У партызанах з студз. 1942: камандзір узвода, роты, нам. камандзіра, нач. штаба атрада, з крас. 1943 нач. штаба 1-й Клічаўскай партыз. брыгады (гл. *Партызанскі полк 208-ы імя І. В. Сталіна*), у жн. 1943— ліп. 1944 камандзір *Бярэзінскай ваенна-аператыўнай групы*. З жн. 1944 у Чырв. Арміі. Загінуў пры ліквідацыі бандэраўскіх бандаў.

**КРУ́КАЎ** Іван Ігнатавіч (н. 10.1.1910, в. Чарнава Чэрвеньскага р-на), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1944. На фронце з чэрв. 1941. Ст. вадзіцель пантонна-маставога батальёна яфрэйтар К. вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра ў Кіеўскай вобл. З 25.9 да 8.10.1943 пад варожым агнём удзельнічаў у пераправе на пароме 2465 воінаў, 47 гармат, 3570 скрынак з боепрыпасамі. Удзельнік вызвалення Прагі, Парада Перамогі ў Маскве. Пасля вайны да 1972 на гасп. і сав. рабоце.

**КРУ́МІНЬ** Іван Андрэевіч (н. 26.9. 1915, г. Гарадок Віцебскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1946. Скончыў Віцебскі кааператыўны тэхнікум (1934), паскораны курс Гомельскага мінамётнага вучылішча (1942), ВПШ пры ЦК КПСС (1955). На фронце з 1942. Камандзір мінамётнага ўзвода лейтэнант К. вызначыўся на Цэнтр. фронце пры фарсіраванні Дняпра ў Лоеўскім р-не. 15.9.1943 пераправіўся цераз раку, паранены карэкціраваў агонь артылерыі, якая знішчала агнявыя кропкі праціўніка, чым садзейнічаў захопу плацдарма. Да 1946 у Сав. Арміі, маёр. Працаваў у сістэме спажывүкааперацыі Латвійскай ССР.

**КРУ́ПКІ**, гар. пасёлак, цэнтр Крупскага р-на, на р. Бобр. За 121 км на ПнУ ад Мінска, за 6 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Мінск — Масква, на аўтадарозе Мінск — Масква. 1.7.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў К. каля 2 тыс. чал., усяго ў пасёлку і раёне — 3531 чал. Дзейнічалі Крупскія падп. райкомы КП(б)Б (10.5.1943—1.7.1944) і ЛКСМБ (30.11.1942—1.7.1944), партыз. брыгады 1-я, 1-я Клічаўская, 1-я Смаленская, 3-я, 5-я, 8-я Кругглянская, М. П. Гудкова, імя Кірава (камандзір Ф. Ц. Пуставіт), імя Панамарэнкі, 2-я Бел. імя Панамарэнкі (2-га складу), Лёзненская, партыз. палкі 208-ы імя Сталіна, 255-ы, 277-ы, «Трынаццаць», асобныя партыз. атрады 8-ы, 24-ы, 28-ы, 30-ы, 252-і, 257-ы, 258-ы, «Слаўны», «Трэція», А. Я. Васілеўскага, «Артур», І. А. Яраша (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«Партизанский путь»*. Вызвалены 28.6. 1944 воінамі 3-й (палк. К. А. Грыцэнка), 18-й (падпалк. В. І. Есіпенка) гвардз. танк. брыгад, 2-й гвардз. мотастралк. брыгады (падпалк. К. А. Андронаў) 3-га гвардз. танк. корпуса 5-й гвардз. танк. арміі 3-га Бел. фронту ў ходзе *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944*. У К. брацкія магілы сав. воінаў, партызан; сав. воінаў, партызан і ахвяр фашызму, на якіх пастаўлены помнікі; помнікі Героям Сав. Саюза А. Ф. *Колесавай* і У. М. *Марцінкевічу*. *В. В. Гетаў.*

**КРУ́ПНІКАЎ** Аляксандр Маркавіч (21.5.1892, в. Залессе Слонімскага р-на — 30.3.1976), ген.-лейтэнант (1958). Чл. КПСС з 1921. У арміі з 1913, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1926). Да 1941 на парт.-паліт. рабоце, камандзір палка, дывізіі. У гады вайны на Крымскім, Паўн.-Каўказскім, Закаўказскім, Цэнтр., 1 і 2-м Бел., 1 і 4-м Укр. франтах: камандзір стралк. дывізіі, нам. камандуючага арміяй, нам. камандуючага войскамі фронту, нам. нач. тылу франтоў. Удзельнік Чарнігаўска-Прыпяцкай, Гомельска-Рэчыцкай, Львоўска-Сандамірскай, Мараўска-Астраўскай і Пражскай аперацый. У 1945—58 нач. тылу ваен. акруг.



І. І. Крукаў. І. А. Крумінь. П. А. Крыванос. С. М. Крывашэін. М. І. Крылоў. Ф. Г. Крылоў.

**КРУЧО́НКІН** Васіль Дзмітрыевіч (13.1. 1894, в. Карпаўка Бугурусланскага р-на Арэнбургскай вобл.— 10.6.1976), ген.-лейтэнант (1943). Чл. КПСС з 1918. У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў курсы ўдасканалення вышэйшага нач. саставу пры Ваен. акадэміі імя Фрунзе (1941), паскораны курс Ваен. акадэміі Генштаба (1943). У Айч. вайну камандзір кав. дывізіі, корпуса, з 1942 камандуючы 28-й, 69, 33-й (удзельнічала ў Магілёўскай і Мінскай аперацыях 1944) арміяй, у 1945 нам. камандуючага 61-й арміяй і 1-м Бел. фронтам. Да 1946 на камандных пасадах у Сав. Арміі. Аўтар кн. «Ад салдата да генерала» (1958).

**КРЫВАНО́С** Павел Ананьевіч (1920, в. Альхоўка Клічаўскага р-на — 27.6. 1944), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. ВЛКСМ. На фронце з 1941, камандзір танк. ўзвода мал. лейтэнант К. вызначыўся пры ліквідацыі варожай групоўкі каля Віцебска. 27.6. 1944 бранёй свайго танка закрыў танк камандзіра палка, паранены працягваў камандаваць баявымі дзеяннямі ўзвода. Памёр ад ран. Яго імем названы вуліца і школа ў г. п. Клічаў.

**КРЫВАШЭ́ІН** Сямён Майсеевіч (28.11. 1899, Варонеж — 16.9.1978), ген.-лейтэнант танк. войск (1943), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1919. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1931), Вышэйшыя акадэмічныя курсы пры Ваен. акадэміі Генштаба (1952). У Чырв. Арміі з 1919. Удзель-

касці, месцу паходжання і аўтарству крыніц, характэрным рысам іх агульнасці і адрознення, метадычным прыёмам даследавання і інш.

З 1960-х г. вядзецца падрыхтоўка і публікацыя даведнікаў, тэматычных аглядаў, апісанняў дакумент. матэрыялаў, якія захоўваюцца ў архівах, музеях, бібліятэках. Вывучаецца фарміраванне крыніцавай базы па гісторыі партыз. руху

М. Е. Крыштафовіч. Я. Р. Крэйзер.



і парт.-патрыятычнага падполля. Аналізуецца работа парт. органаў рэспублікі сумесна з Ін-там гісторыі партыі пры ЦК КПБ па ўстанаўленню дзейнасці падп. парт., камсам., антыфашыст. арг-цый і груп, работа па збору ўспамінаў удзельнікаў партыз. руху і падполля спец. камісіямі пад кіраўніцтвам сектара збору і публікацыі мемуараў Ін-та гісторыі АН БССР і інш. З завяршэннем работы па арг-цыі, выяўленню, зборы дакументаў і матэрыялаў настаў час іх паглыбленага крыніцазнаўчага вывучэння. *М. Ф. Шумейка.*

**КРЫ́САЎ** Іван Ніканоравіч (н. 16.3.1918, в. Жэрдзева Урыцкага р-на Арлоўскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Вілейскай вобл. У партызанах з кастр. 1941: камандзір групы, нач. штаба атрада, брыгады, у лют.— ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава.* З 1944 на сав. і гасп. рабоце.

**КРЫ́ЧАЎ,** горад абл. падпарадкавання, цэнтр Крычаўскага р-на, на правым беразе р. Сож. За 104 км на ПдУ ад Магілёва. Вузел чыгунак (на Оршу, Магілёў, Унечу, Рослаўль), на аўтадарозе Бабруйск — Масква. 16 тыс. жыхароў у 1939. У ліп.— жн. 1941 у раёне К. ішлі жорсткія баі войск 13-й арміі Зах. фронту супраць наступаючых ням.-фаш. часцей 2-й танк. групы ген. Гудэрыяна. У сярэдзіне ліп. войскі праціўніка прарваліся да р. Сож на ўчастку Прапойск (Слаўгарад) — Крычаў — Мсціслаў, 17.7. 1941 захапілі К. Аднак фарсіраваць Сож з ходу і развіць наступленне ворагу не ўдалося. У раёне К. ўздоўж левага берага р. Сож абарону трымалі воіны 6-й (палк. М. А. Папсуй-Шапко), 132-й (ген.-маёр С. С. Бірузоў), 137-й (палк. І. Ц. Грышын) стралк. дывізій, 4-га паветрана-дэсантнага корпуса (ген.-маёр А. С. Жадаў), Ленінградскага камуніст. батальёна і інш. часцей Зах., з 24.7.1941 Цэнтр. фронту. 29 ліп. група (1200 воінаў) 4-га паветрана-дэсантнага корпуса пад камандаваннем В. С. Цімчанкі выбіла немцаў з горада і каля 2 сутак змагалася ў акружэнні з ворагам, які падцягнуў рэзервы. Амаль усе дэсантнікі загінулі, прарваліся з акружэння і выйшлі за Сож толькі 13 чал. Часці Чырв. Арміі ўтрымлівалі фронт на р. Сож на ўчастку Мсціслаў — Крычаў да 1 жн., на ўчастку Крычаў — Прапойск да 8 жн., у акружэнні сав. воіны працягвалі змагацца да 16.8.1941, чым скавалі значныя сілы праціўніка ў перыяд *Смаленскай бітвы 1941.* Ням.-фаш. акупанты разбурылі горад, стварылі ў К. 3 лагеры смерці, у К. і раёне забілі каля 24 тыс. чал. У К. з вер. 1941 дзейнічала *Крычаўскае партыйна-камсамольскае падполле,* у горадзе і раёне — Крычаўскі падп. райком ЛКСМБ (26.6—1.10.1943), партыз. полк «Трынаццаць», партыз. атрады 3-і, 48-ы Крычаўскі, 48-ы Прапойскі, Ананава, «Анатоля», «Другія», «Чапай», «Алеся», «Валянціна Маёрава» (гл. адпаведныя артыкулы). К. вызвалены 29.9.1943 воінамі 369-й стралк. дывізіі (ген.-маёр І. В. Хазаў) 46-га стралк. корпуса 50-й арміі Бранскага фронту ва ўзаемадзеянні з часцямі 10-й арміі Зах. фронту ў ходзе *Бранскай аперацыі 1943.* 3 часцям і злучэнням прысвоены ганаровыя найменні «Крычаўскіх» (гл. *Крычаўскія вайсковыя злучэнні і часці*). У К. брацкія магілы сав. воінаў, падпольшчыкаў, магілы ваеннапалонных, ахвяр фашызму, на якіх пастаўлены помнікі; помнікі ў гонар абаронцаў горада ў 1941, падпольшчыкам, ваеннапалонным; установлены мемар. дошкі сав. воінам-вызваліцелям, у гонар вызвалення горада, падпольшчыцы М. С. Талкачовай. Працуе *Крычаўскі раённы краязнаўчы музей.* *В. С. Паваліхіна.*

**КРЫ́ЧАЎСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з вер. 1941 да жн. 1943 у Крычаве і Крычаўскім р-не. Узначальвалі даваен. сакратар Крычаўскага РК КП(б)Б К. А. Рэвуцкі, з вер. 1942 А. Л. Гаўрыленка. Аб'ядноўвала 74 чал., з іх 44 камуністы і камсамольцы, 5 груп: на цэментавым з-дзе і чыг. вузле — кіраўнік Гаўрыленка, у горадзе — М. Р. Каінаў, у в. Бацвінаўка — Б. Я. Грыгор'еў, у в. Касцюшкавічы — С. С. Давыдзенка, з чэрв. 1942 Дз. Я. Грыгор'еў, у в. Міхеевічы — А. М. Крупадзёраў.

Падпольшчыкі вялі агітацыю сярод насельніцтва, распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро і лістоўкі, здабывалі для партызан зброю і боепрыпасы, звесткі аб дыслакацыі войск і чыг. перавозках ворага, арганізоўвалі ўцёкі ваеннапалонных з лагераў, забяспечвалі іх дакументамі. Зрывалі спробы акупантаў аднавіць цэментавы з-д, вывелі са строю 35 электраматораў, сапсавалі трансмісіі печаў і канвеер. На чыг. вузле падарвалі і спалілі 3 секцыі дэпо, інструментальны і механічны цэхі, электрастанцыю, бензасклад, замініравалі 5 паравозаў, вывелі са строю чыг. лінію ў раёне ст. Шасцяроўка, узарвалі эшалон на перагоне Клімавічы — Міхеевічы. Падпольшчыкі в. Бацвінаўка перадалі партызанам 2 кулямёты і каля 30 вінтовак, у ліп. 1942 падарвалі чыг. мост цераз р. Волчас.

15.2.1943 у Крычаве фашысты арыштавалі многіх падпольшчыкаў. Тыя, хто пазбег арышту, стварылі *партызанскі атрад 48-ы Крычаўскі,* арганізавалі ўцёкі арыштаваных, перадаўшы ім у камеру зброю праз піянера В. Дудзіна. У барацьбе з акупантамі загінулі А. І. Акаёмаў, А. Ф. Данілаў, В. Р. Давыдзенка, В. К. Дудзін, М. Р. Каінаў, В. М. Карпекін, М. І. Куляшоў, Г. П. Лузенін, П. Я. Маёраў, А. М. Маслянскі, І. Я. Ракоўскі, А. Салаўёў, В. М. Серабабаў, П. К. Скараходаў, М. С. Талкачова, З. Р. і Р. Ф. Федасеенкі, А. М. Штолік, А. Р. Шынкароў. Многія падпольшчыкі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі СССР. У гар. парку Крычава помнік на брацкай магіле расстраляных гітлераўцамі сав. ваеннапалонных і падпольшчыкаў. *А. Б. Рогаў.*

**КРЫ́ЧАЎСКІ РАЁННЫ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты 15.10.1961. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, размешчана на пл. 50 м². Экспануюцца матэрыялы аб пачатковым перыядзе вайны: карта-схема лініі фронту ў раёне Крычава ў ліп.— жн. 1941, часткі самалёта лётчыка А. В. Гуменнікава, на якім ён здзейсніў паветр. таран над родняй вёскай Бель, схема бою каля в. Сакольнічы, фатаграфіі, дакументы, асабістыя рэчы, зброя ўдзельнікаў баёў на Крычаўшчыне, у т. л. ген.-маёра П. П. Корзуна, камандзіра 20-га стралк. корпуса ген.-маёра С. І. Яроміна, артылерыста М. У. Сірацініна і інш.; аб узнікненні і разгортванні падполля і партыз. руху ў раёне — матэрыялы пра *Крычаўскае партыйна-камсамольскае падполле,* у т. л. пра ўдзельнікаў гэтага падполля артыстаў А. І. Акаёмава і Г. П. Лузеніна, журналіста А. А. Гардзіевіча, фатаграфія чл. Магілёўскага падп. абкома КП(б)Б, друкарскі станок, лістоўкі, якія выпускаліся ў 48-м асобным партыз. атрадзе, выданне *«Раздавім фашысцкую гадзіну»* за 1942—43, фатаграфіі і дакументы партызан атрадаў «Анатоля», «Алеся», 3-га, 48-га і інш. Расказваецца аб злачынствах ням.-фаш. захопнікаў у раёне. Матэрыялы аб вызваленні горада і раёна, аб 212-й і 385-й стралк. дывізіях і 572-м пушачна-арт. палку, якія атрымалі ганаровыя найменні «Крычаўскіх», фатаграфіі і асабістыя рэчы воінаў-вызваліцеляў, аб земляках — удзельніках Вял. Айч. вайны (фатаграфіі, асабістыя рэчы, макет танка Т-34

двойчы Героя Сав. Саюза І. І. *Гусакоўскага,* фатаграфіі Герояў Сав. Саюза А. Я. *Смалякова* і М. І. *Сталярова,* поўнага кавалера ордэна Славы У. Я. *Карнеенкі* і інш.). Экспануюцца карціна «Там, за Сожам Беларусь» (маст. В. Бялоў), бюсты лётчыка Гуменнікава (скульпт. С. Адашкевіч) і рэдактара падп. газ. «Звязда» і «Чырвоная змена» М. П. *Барашкава.*

*Н. М. Марозава.*

**КРЫЧАЎСКІЯ ВАЙСКОВЫЯ ЗЛУЧЭННІ І ЧАСЦЬ.** За вызваленне горада (29.9.1943) у ходзе *Бранскай аперацыі 1943* загадам ВГК ад 30.9.1943 ганаровыя найменні «Крычаўскіх» нададзены злучэнням і 1 часці Бранскага фронту.

Злучэнні і часць, якім нададзены ганаровыя найменні «Крычаўскіх»: 212-я (палк. А. П. Мальцаў) і 385-я (палк. М. Ф. Супруноў) стралк. дывізіі, 572-і пушачны арт. полк (палк. А. Я. Савін). Гэта быў першы загад ВГК у сувязі з вызваленнем гарадоў БССР ад ням.-фаш. акупантаў.

*М. І. Камінскі.*

**КРЫШНЕЎ** Іоў Афанасьевіч (4.5.1901, в. Яшчыцы Жлобінскага р-на — 5.1.1972), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Гомельскай вобл. Чл. КПСС з 1927. Удзельнік грамадз. вайны. З лют. 1940 2-і сакратар Жлобінскага РК КП(б)Б. З пачатку Айч. вайны ўдзельнічаў у абароне Жлобіна, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Жлобінскага знішчальнага батальёна. З снеж. 1941 у распараджэнні ЦК КП(б)Б. У чэрв. 1942 накіраваны ў Жлобінскі р-н для арганізацыі партыз. атрада. З кастр. 1942 сакратар *Жлобінскага падпольнага міжрайкома КП(б)Б,* адначасова з вер. 1942 камандзір *партызанскага атрада «Смерць фашызму»,* у маі — вер. 1943 сакратар Жлобінскага падп. РК КП(б)Б. З вер. 1943 у распараджэнні БШПР. У ліст. 1943 — ліст. 1944 1-ы сакратар Жлобінскага РК КП(б)Б. Пасля вайны на гасп. рабоце. Яго імем названа вуліца ў Жлобіне.

**КРЫШТАФОВІЧ** Мірон Емяльянавіч (18.8.1899, в. Піняны Пружанскага р-на — 10.5.1985), удзельнік рэв. руху ў Зах. Беларусі, адзін з арганізатараў антыфаш. падполля і партыз. руху ў Брэсцкай вобл. ў Айч. вайну. Чл. КПСС з 1923. За рэв. дзейнасць у 1925—29 зняволены ў турму. У 1931—35 вучыўся ў Камуніст. ун-це нац. меншасцей Захаду ў Маскве. У 1935—38 сакратар Гродзенскага, Навагрудскага, Беластоцкага, Слонімскага, Брэсцкага акр. к-таў КПЗБ, інструктар ЦК КПЗБ. У Айч. вайну з 1941 у партызанах; з вер. 1941 сакратар Пружанскага антыфаш. к-та, з мая 1942 заг. аддзелам *Брэсцкага міжраённага «Камітэта барацьбы з нямецкімі акупантамі».* З ліп. 1943 нам. сакратара *Брэсцкага абласнога антыфашысцкага камітэта,* адначасова з ліст. 1943 камісар *партызанскай брыгады імя П. К. Панамарэнкі.* З ліп. 1944 старшыня Пружанскага райвыканкома. У 1947—61 старшыня і нам. старшыні Брэсцкага аблвыканкома. Канд. у чл. ЦК КП(б)Б у 1949—52, чл. ЦК КПБ у 1952—60. Дэп. ВС СССР у 1946—58, ВС БССР у 1951—55, 1959—63, нам. Старшыні Прэзідыума ВС БССР у 1951—55. Ганаровы грамадзянін Брэста. У Брэсце на доме, дзе ён жыў, мемар. дошка.

**КРЭЙЗЕР** Якаў Рыгоравіч (4.11.1905, Варонеж — 29.11.1969), Герой Сав. Саюза (1941), ген. арміі (1962). Чл. КПСС з 1925. Скончыў паскораны курс Ваен. акадэміі Генштаба (1941). У Чырв. Арміі з 1921. З чэрв. 1941 на Зах., Бранскім, Сталінградскім, Паўд., 4-м Укр., Ленінградскім, 1-м і 2-м Прыбалт. франтах: камандзір дывізіі, нам. камандуючага, камандуючы арміямі. Вызначыўся ў ліп. 1941 у абарончых баях за Барысаў і Оршу. Пад яго камандаваннем 1-я Маскоўская мотастралк. дывізія на 2 сутак затрымала наступленне праціўніка на Бярэзіне, на некалькі сутак — у напрамку Дняпра. У ліп. 1944 войскі 51-й арміі пад яго камандаваннем удзельнічалі ў баях каля Полацка. Пасля вайны камандаваў войскамі ваен. акруг, быў нач. курсаў «Выстрал». Чл. Цэнтр. рэвізійнай камісіі КПСС у 1961—66. Дэп. ВС СССР у 1962—66.

**КРЭМЕР** Сямён Давыдавіч (н. 10.2.1900, Гомель), ген.-маёр танк. войск (1944), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1919. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1934), Вышэйшыя акадэмічныя курсы пры Ваен. акадэміі Генштаба (1952). Са снеж. 1917 у Гомельскім чырвонагвардз. атрадзе, з ліст. 1918 у Чырв. Арміі. У грамадз. вайну на Зах. фронце. У 1937—42 у замежнай камандзіроўцы. З 1942 нач. факультэта Ваен. ін-та замежных моў. З ліп. 1943 на Бранскім, Цэнтр., 1-м Укр., 3-м Бел., 1-м Прыбалт. франтах: камандзір механіз. брыгады, нам. камандзіра механіз. корпуса. Удзельнік Курскай бітвы, вызвалення Украіны, Беларусі, Літвы, Латвіі, Паўн.-Усх. Кітая. Вызначыўся пры вызваленні гарадоў Шаўляй і Елгава. У Сав. Арміі да 1956. Ганаровы грамадзянін г. Тукумс Латвійскай ССР.

**КСЯНДЗОЎ** Рыгор Васілевіч (н. 23.4.1916, в. Рэчкі Веткаўскага р-на), Герой Сав. Саюза (1946). Чл. КПСС з 1944. Скончыў Гомельскі заатэхнікум (1937), Краснадарскае ваен. авіяц. вучылішча (1940), Разанскую вышэйшую авіяц. (1942), Вышэйшую афіцэрскую (1952) школы. На фронце з 1941. Удзельнік абароны Масквы, Сталінградскай бітвы, прарыву блакады Ленінграда, Бел. аперацыі 1944, вызвалення Прыбалтыкі, Украіны, Польшчы, штурму Берліна. Штурман бамбардзіровачнай эскадрыллі далёкага дзеяння капітан К. зрабіў 255 баявых вылетаў, з іх 24 да партызан Беларусі. Да 1961 у Сав. Арміі, палкоўнік. Жыве і працуе ў Мінску.

С. Д. Крэмер. Р. В. Ксяндзоў.



**КУБАНСКА-БАРАНАВІЦКАЯ КАЗАЦКАЯ КАВАЛЕРЫЙСКАЯ ДЫВІЗІЯ** гвардзейская двойчы Чырванасцяжная, ордэнаў Суворава, Кутузава і Багдана Хмяльніцкага.

Сфарміравана ў Краснадарскім краі ў студз. 1942 як 12-я Кубанская казацкая кав. дывізія ў складзе 3 кав. палкоў і інш. часцей (у асн. добраахвотнікі). Уваходзіла ў склад 17-га (з 27.8.1942—4-га гвардз.) Кубанскага казацкага кав. корпуса.

Баявыя дзеянні пачала на Паўн. Каўказе 27.7.1942. За баі па прарыву варожага акружэння ў раёне Туапсэ пераўтворана ў 9-ю гвардз. Кубанскую казацкую кав. дывізію (27.8.1942). Вызначылася ў баях з ням.-фаш. войскамі пры вызваленні Паўн. Каўказа, узнаг. ордэнам Чырв. Сцяга (31.3.1943), за баі па вызваленню Правабярэжнай Украіны — ордэнам Суворава II ступені (19.3.1944), за баі па вызваленню Адэсы — ордэнам Багдана Хмяльніцкага II ступені (20.4.1944). Летам 1944 у складзе конна-механіз. групы ген.-лейт. І. А. Пліева 1-га Бел. фронту ўдзельнічала ў *Беларускай аперацыі 1944.* Наступаючы высокімі тэмпамі ў аператыўнай глыбіні ворага, часці злучэння вызначыліся пры вызваленні г. Слуцка ў час *Мінскай аперацыі 1944* і г. Слоніма; дывізія ўзнаг. ордэнамі Чырв. Сцяга (5.7.1944) і Кутузава І ступені (10.7.1944). Вызначылася пры разгроме баранавіцкай групоўкі ворага, удастоена ганаровага наймення «Баранавіцкай» (27.7.1944). З вер. 1944 на 2-м Укр. фронце, удзельнічала ў вызваленні Венгрыі і Чэхаславакіі. Тысячы воінаў дывізіі ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР, 3 з іх удастоены звання Героя Сав. Саюза.

Камандзіры: палк. А. П. Скараход (студз. 1942), падпалк. М. Л. Пархоўнікаў (студз.— май 1942), палк. І. В. Тутарынаў (май 1942 — ліп. 1944), палк. Д. С. Дзямчук (ліп.— ліст. 1944), палк. В. Г. Гагуа (снеж. 1944 — крас. 1945),

палк. А. П. Смірноў (крас.— май 1945). *М. І. Камінскі.*

**КУБАНСКА-СЛУЦКАЯ КАЗАЦКАЯ КАВАЛЕРЫЙСКАЯ ДЫВІЗІЯ** гвардзейская Чырванасцяжная, ордэнаў Суворава, Кутузава і Багдана Хмяльніцкага.

Сфарміравана ў Краснадарскім краі ў лют. 1942 як 13-я Кубанская казацкая

А. А. Кубліцкі. Д. А. Кудравіцкі.



дывізія ў складзе 3 кав. палкоў і інш. часцей (у асн. добраахвотнікі). Уваходзіла ў склад 17-га (з 27.8.1942 4-га гвардз.) Кубанскага казацкага кав. корпуса.

Баявыя дзеянні пачала на Паўн. Каўказе, дзе вызначылася ў баях у час прарыву варожага акружэння ў раёне Туапсэ і была пераўтворана ў 10-ю гвардз. Кубанскую казацкую кав. дывізію (27.8.1942). Удзельнічала ў вызваленні Паўн. Каўказа, у баях на р. Міус, узнаг. ордэнам Чырв. Сцяга (31.3.1943). Вызначылася ў баях на поўдні Правабярэжнай Украіны, узнагароджана ордэнам Суворава II ступені (19.3.1944), за вызваленне Адэсы — ордэнам Багдана Хмяльніцкага II ступені (20.4.1944). Летам 1944 у складзе конна-механіз. групы ген.-лейт. І. А. Пліева на 1-м Бел. фронце ўдзельнічала ў *Беларускай аперацыі 1944*. 25.6.1944 дывізія ўвайшла ў прарыў, за 5 дзён прайшла з баямі больш за 100 км, ва ўзаемадзеянні з інш. злучэннямі вызваліла г. Слуцк у час *Мінскай аперацыі 1944*, удастоена ганаровага наймення «Слуцкай» (5.7.1944), у ходзе наступлення на баранавіцка-брэсцкім напрамку вызваліла г. Слонім, узнаг. ордэнам Кутузава І ступені (10.7.1944), удзельнічала ў вызваленні г. Баранавічы, за што яе палкі 36-ы, 40-ы і 42-і гвардз. кав. ўдастоены ганаровых найменняў «Баранавіцкіх» (27.7.1944) і ўзнаг. ордэнамі Чырв. Сцяга (25.7.1944). З вер. 1944 у складзе конна-механіз. групы дзейнічала на 2-м Укр. фронце, удзельнічала ў вызваленні Венгрыі і Чэхаславакіі. Тысячы воінаў дывізіі ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР, 5 з іх удастоены звання Героя Сав. Саюза.

Камандзіры: палк. М. Ф. Цыпляеў (студз.— чэрв. 1942), палк., са жн. 1942 ген.-маёр Б. С. Мілераў (чэрв. 1942 — ліст. 1943), палк. М. Р. Гадалін (ліст. 1943 — крас. 1944), палк. С. А. Шаўчук (крас. 1944), палк. М. С. Папрыкайла (крас.— ліп. 1944), палк. Р. І. Рэва (ліп.— кастр. 1944), палк. В. В. Нікіфараў (кастр. 1944 — люты 1945), ген.-маёр С. Т. Шмуйла (люты 1945 — да канца вайны). *М. І. Камінскі.*

**КУБЛІЦКІ** Аляксей Аляксандравіч (н. 1.10.1919, в. Міхайла-Шахава Тайшэцкага р-на Іркуцкай вобл.), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1944. Беларус. З лют. 1943 на Цэнтр., 1-м Бел. і інш. франтах. Удзельнік *Бабруйскай аперацыі 1944*. Камандзір аддзялення роты сувязі ст. сяржант К. вызначыўся 7.9.1944 пры фарсіраванні р. Нараў у Польшчы і ў баях за плацдарм. Сярод першых пераправіўся цераз раку, наладзіў сувязь з падраздзяленнямі. З яго ўдзелам адбіта 9 варожых контратак. Знішчыў кулямётчыка і з яго кулямёта адкрыў агонь па ворагу, процітанк. гранатамі падбіў самаходную гармату. У рукапашным баі забіў ням. афіцэра, двойчы паранены, не пакінуў поля бою. Пасля вайны на адм.-гасп. рабоце.

**КУБЭ** (Kube) Вільгельм (1887—22.9. 1943), нацысцкі ваен. злачынца, адзін з гал. арганізатараў фаш. тэрору на Беларусі. Чл. фаш. партыі, прыбліжаная асоба Гітлера і Гімлера. З вер. 1941 узначальваў т. зв. генеральны камісарыят Беларусі. Пад яго кіраўніцтвам праводзілася палітыка генацыду і «выпаленай зямлі», разграблення і знішчэння нац. багаццяў рэспублікі. Па прыгавору бел. народа знішчаны мінскімі падпольшчыкамі.

**КУДАШАЎ** Аляксей Іванавіч (крас. 1914, в. Андрыянопаль Кваркенскага р-на Арэнбургскай вобл.— 12.10. 1945), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1938. У партызанах з снеж. 1941: камандзір групы, атрада, у студз.— вер. 1943 камісар, у крас.— чэрв. 1944 камандзір *партызанскай брыгады 161-й імя Р. І. Катоўскага.* З 1944 на гасп. рабоце.

**КУДЗІН** Марк Іванавіч (11.1.1906, в. Старое Курганне Клічаўскага р-на — 14.3.1982), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1926. З 1923 на сав. і адм.-гасп. рабоце. З жн. 1942 у тыле ворага, з ліст. нам. упаўнаважанага ЦК КП(б)Б па Магілёўскай вобл., адначасова з крас. 1943 пам. сакратара, чл. Магілёўскага падп. абкома КП(б)Б. З 1944 нам. старшыні Магілёўскага аблвыканкома, прадстаўнік Савета па справах калгасаў Урада СССР па Магілёўскай і Бабруйскай абл. У 1953—75 на прафс. і сав. рабоце.

**КУДРАВІЦКІ** Давыд Абрамавіч (7.2. 1919, г. п. Хіславічы Смаленскай вобл.— 1.10.1943), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. ВЛКСМ. На фронце з вер. 1941. Камандзір стралк. роты лейтэнант К. вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра ў Брагінскім р-не. У ноч на 29.9.1943 рота пад яго камандаваннем пераправілася цераз раку, выбіла ворага з 1-й лініі траншэй, блакіравала яго агнявыя кропкі. У час контратакі праціўніка К. падняў байцоў у рукапашны бой. Чатыры разы паранены, не пакінуў поля бою. Загінуў у баі.

**КУДРЫН** Рыгор Леанідавіч (10.4.1911, с. Паўлаўскае Істрынскага р-на Маскоўскай вобл.— 4.1.1978), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1940. З 1925 працаваў на з-дзе, з 1936 нач. цэха, з 1938 дырэктар ф-кі ў Серпухаве. Удзельнік абароны Масквы ў 1941. У партызанах з снеж. 1941: камандзір роты, з ліст. 1942 атрада, у снеж. 1943 — ліп. 1944 *партызанскай брыгады імя В. І. Чапаева.* З 1944 на сав. і адм.-гасп. рабоце.

**КУЗАЎКОЎ** Іван Аляксандравіч (н. 6.6.1903, г. Барысаглебск Варонежскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1943), ген.-палк. (1967). Чл. КПСС з 1926. Скончыў ваен. акадэмію імя Фрунзе (1939). У Чырв. Арміі з 1923. З ліп. 1941 на Зах., Цэнтр., Бел., 1-м Укр. франтах. Удзельнік вызвалення Лоева, Рэчыцы, Васілевіч, Мазыра, Калінкавіч. Вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра ў Лоеўскім р-не. У ноч на 16.10.1943 стралк. дывізія пад камандаваннем ген.-маёра К. пераправілася цераз раку, ва ўпартых баях захапіла ўмацаваныя пункты ў в. Шчытцы і Сінск, што садзейнічала пашырэнню плацдарма. Да 1969 у Сав. Арміі.

**КУЗНЯЦОЎ** Васіль Іванавіч (15.1. 1894, с. Усць-Усолка Чардынскага р-на Пермскай вобл.— 20.6.1964), ген.-палк. (1943), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1928. У арміі з 1915, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік 1-й сусв., грамадз. войнаў. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1936). З чэрв. 1941 камандуючы 3-й арміяй Зах. фронту, якая вяла абарончыя баі (з канца чэрв. ў акружэнні) у раёне Гродна, Ліды, Навагрудка. Са жн. 1941 камандуючы 21-й, 58-й, 1-й ударнай, 63-й, 1-й гвардз. арміямі. Са снеж. 1943 нам. камандуючага 1-м Прыбалт. фронтам, камандуючы 3-й ударнай арміяй. Пасля вайны на адказных пасадах у апараце Міністэрства абароны СССР. Дэп. ВС СССР у 1946—50, 1954—58.

**КУЗНЯЦОЎ** Іван Захаравіч (н. 25.8. 1914, с. Вязовенка Скапінскага р-на Разанскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1942. З 1939 працаваў на чыгунцы. З чэрв. 1941 на фронце. У партызанах з лют. 1942: камандзір групы, з сак. 1942 атрада, у жн. 1943 — ліп. 1944 *партызанскай брыгады «Чырвоны сцяг».* З 1944 на сав., адм.-гасп. і гасп. рабоце.

**КУЗНЯЦОЎ** Сцяпан Трыфілавіч (н. 27.12.1911, чыг. ст. Сахноўшчына

Харкаўскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1946. У 1932—41 у Чырв. Арміі. У партызанах з чэрв. 1942: камандзір узвода, камісар атрада, у кастр. 1943 — ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады імя газеты «Праўда»*. У 1944—75 на адм.-гасп. рабоце.

**КУЗНЯЦО́Ў** Фёдар Ісідаравіч (29.9. 1898, в. Балбечына Горацкага р-на Магілёўскай вобл.— 22.3.1961), ген.-палкоўнік (1941). Чл. КПСС з 1938. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1926). У арміі з 1915. У грамадз. вайну на Зах. фронце, камандзір палка, узнаг. 2 ордэнамі Чырв. Сцяга. З 1938 нам. камандуючага войскамі БВА, нач. Ваен. акадэміі Генштаба, камандуючы Паўн.-Каўказскай і Прыбалт. ваен. акругамі. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну камандуючы войскамі Паўн.-Зах. і Цэнтр. франтоў, нам. камандуючага войскамі Зах., Волхаўскага, Карэльскага франтоў. У 1945—48 камандуючы войскамі Уральскай ваен. акругі.

**КУЗНЯЦО́Ў** Фёдар Спірыдонавіч (н. 15.9.1913, ст. Чарназём Калінінскай вобл.), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў *Мінскага партыйнага падполля* і партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1940. Скончыў Вялікалуцкі тэхнікум шляхоў зносін (1933). Перад вайной нач. паравознага дэпо ст. Мінск. З ліп. 1941 арганізатар і кіраўнік падп. арг-цыі на Мінскім чыг. вузле. Падтрымліваў сувязь з партыз. атрадам «Мсцівец», які рэгулярна папаўняўся чыгуначнікамі. З крас. 1942 у партызанах — нам. камандзіра роты па паліт. часткі, камісар атрада «Мсцівец», у кастр. 1943 — лют. 1944 камісар брыгады «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага. Яго зварот да рабочых чыг. транспарту акупіраванай тэр. (Звязда. 1943. 6 вер.) выклікаў папаўненне партыз. радоў, павелічэнне колькасці дыверсій на чыгунцы. Пасля вайны на адм. рабоце ў Мінскім аддзяленні Бел. чыгункі. Ганаровы чыгуначнік Міністэрства шляхоў зносін СССР. Аўтар успамінаў «Чыгуначнікі Мінска ў барацьбе супраць фашысцкіх акупантаў» у зборніку «З гісторыі партызанскага руху ў Беларусі (1941—1944 гады)» (1961). У Мінску на доме, дзе быў штаб падп. арг-цыі чыгуначнікаў на чале з К., устаноўлена мемар. дошка.

**КУКСЕНАК** Іван Архіпавіч (23.10. 1917, Шчамілаўка, Шумілінскі р-н — 11.12.1984), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1942. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1948). Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У 1938—42 у Чырв. Арміі. У партызанах з кастр. 1942: камандзір атрада, у ліст. 1943 — ліп. 1944 *партызанскай брыгады імя ВЛКСМ*. З 1944 на парт. і адм. рабоце.

**КУКСЕНАК** Павел Антонавіч (15.5. 1891, в. Кульнёва Расонскага р-на — 3.12.1941), арганізатар і адзін з кіраўнікоў *Сакалішчанскага партыйна-камсамольскага падполля*. Чл. КПСС з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. У 1920—30 на сав. і гасп. рабоце. З вер. 1939 старшыня Часовага ўпраўлення Дзісенскага павета. Глыбоцкага райвыканкома. У 1941 пад кіраўніцтвам Расонскага падп. РК КП(б)Б стварыў і ўзначаліў дзейнасць Сакалішчанскай падп. арг-цыі, якая мела групы ў 10 вёсках Дрысенскага (цяпер Верхнядзвінскага), Полацкага і Расонскага р-наў. Забіты ням.-фаш. акупантамі ў час арышту. Дэп. ВС БССР з 1940.

**КУКШЭ́ВІЦКА-СТА́НЬКАЎСКАЯ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЯ ГРУ́ПА.** Дзейнічала з жн. 1941 да кастр. 1942 у в. Кукшэвічы і Станькава Дзяржынскага р-на, састаўная частка *Дзяржынскага партыйна-камсамольскага падполля*. Уваходзілі У. М. Вашкевіч (кіраўнік), К. М. Бабок, Г. П. Бохан, А. П. Вашкевіч, Я. П. Грыцаневіч, А. У. Івашын, Г. А., А. С. і Я. М. Казей, М. П. Пякарскі, А. Б. Рымар і інш. Падпольшчыкі збіралі для партызан зброю і хавалі яе ў Зварыкаўскім лесе, у в. Станькава ў доме Г. А. Казей, якая прыцягнула да барацьбы супраць акупантаў аднавяскоўцаў, сына піянера Марата і дачку Аду. У ліст. 1941 Г. А. Казей схоплена гітлераўцамі і пасля катаванняў загублена. Патрыёты распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі, аказвалі дапамогу параненым чырвонаармейцам і тым, што ўцяклі з палону. Мелі канспіратыўныя кватэры ў дамах у А. С. Казей (Кукшэвічы), З. А. Шчаковіч (Забалоцце), радыёпрыёмнік на кватэры А. П. Вашкевіча (Кукшэвічы). Падпольшчыкі парушалі тэлефонна-тэлеграфную сувязь ворага на лініях Дзяржынск — Станькава, Дабрынёва — Ляхавічы, восенню 1941 П. А. Вараб'ёў, Грыцаневіч, Івашын спалілі мост праз р. Уса каля в. Ляхавічы. У пачатку кастр. 1942 група падпольшчыкаў на чале з У. М. Вашкевічам канфіскавала з дзяржынскага банка вял. суму грошай і перадала іх партызанам. У кастр.— ліст. 1942 большасць падпольшчыкаў пайшла ў партызаны. *А. І. Валахановіч.*

**КУЛА́ГІН** Андрэй Міхайлавіч (4.9. 1921, в. Старое Закружжа Веткаўскага р-на — 9.8.1980), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Магілёўскі аэраклуб (1939), Армавірскую ваен. авіяц. школу пілотаў (1942), Ваен.-паветр. акадэмію (1954). З ліп. 1942 на Паўд., Закаўказскім, Паўн.-Каўказскім франтах, у Асобнай Прыморскай арміі і на 2-м Бел. фронце. Лётчык-знішчальнік капітан К. зрабіў 762 баявыя вылеты, правёў 142 паветр. баі, збіў 32 варожыя самалёты, 7 у групавых баях. Да 1956 у Сав. Арміі, палкоўнік. З 1959 на парт. рабоце, з 1961 інструктар, заг. сектара ЦК КПБ. Дэп. ВС БССР у 1947—1951. Імем К. названы вуліца і школа на яго радзіме, вуліца ў Магілёве.

**КУЛАКО́ВА,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на ПдЗ ад в. Ворзава Бігосаўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 62 чал. У сак. 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»*, фашысты загубілі 26 жыхароў, вёску (18 двароў) спалілі. Пасля вайны не адноўлена. У 1975 на месцы вёскі пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

І. А. Кузаўкоў. Ф. І. Кузняцоў.



**КУЛІКО́ЎСКІ** Іван Міхайлавіч (н. 21.8.1902, в. Плошчава Смаленскага р-на), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Палескай вобл. Чл. КПСС з 1927. З 1924 у Чырв. Арміі. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. З чэрв. 1941 на фронце. У партызанах з ліп. 1942: камандзір атрада, у студз.— лют. 1943 — *партызанскай брыгады 99-й імя Дз. Ц. Гуляева,* у сак.— ліп. 1943 — *партызанскай брыгады 210-й Капаткевіцкай,* у вер. 1943 — чэрв. 1944 — *партызанскай брыгады 100-й Глускай,* адначасова чл. Глускага падп. РК КП(б)Б. У 1944—60 на сав. і гасп. рабоце.

**КУЛІЧКО́Ў** Аляксандр Міхайлавіч (н. 1.11.1911, с. Пушкіна Рамаданаўскага р-на Мардоўскай АССР), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай і Вілейскай абл. Чл. КПСС з 1940. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1950), БСГА (1962). З 1935 на адм. рабоце. У партызанах з жн. 1941: радавы, камісар атрада, у кастр. 1943 — сак. 1944 камісар *партызанскай брыгады 16-й Смаленскай,* у сак.— ліп. 1944 сакратар Пліскага падп. РК КП(б)Б. З 1944 на парт. і сав. рабоце, у 1952—78 на пед. рабоце.

**КУНГУ́РЦАЎ** Яўген Максімавіч (н. 3.10.1921, г. Іжэўск), двойчы Герой

Сав. Саюза (1945), ген.-маёр авіяцыі (1964). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Балашоўскую ваен. авіяц. школу пілотаў (1942), Ваен.-паветр. акадэмію (1952), Ваен. акадэмію Генштаба (1957). З лют. 1943 на Ленінградскім, 3-м Бел. франтах: лётчык-штурмавік, ст. лётчык, камандзір звяна, нам. камандзіра і камандзір эскадрыллі штурмавога авіяпалка. Удзельнік вызвалення Беларусі. Зрабіў каля 400 баявых вылетаў на разведку і штурмоўку апорных пунктаў, аэрадромаў, жывой сілы і тэхнікі праціўніка. Асабіста збіў 2 самалёты, 12 — у групавых баях. Да 1968 у Сав. Арміі. На радзіме пастаўлены яго бюст.



А. М. Кулагін. Я. М. Кунгурцаў. Р. У. Кунько.

**КУНДО́ВІЧ** Віталь Вікенцьевіч (15.9. 1897, Беласток — 27.12.1987), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Беластоцкай вобл. Чл. КПСС з 1921. Удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадз. вайны. У 1930—43 у органах пракуратуры. У 1941 камандзір знішчальнага батальёна ў Пінску. З жн. 1943 у тыле ворага, з вер. 1943 да 1.8.1944 упаўнаважаны ЦК КП(б)Б і БШПР па Лапскім р-не, адначасова з 23.10.1943 да 1.8. 1944 сакратар *Лапскага падпольнага міжрайкома КП(б)Б.* У 1944—60 у органах пракуратуры БССР.

**КУНЬКО́** Рыма Уладзіміраўна (14.12. 1926, г. Рэчыца — 1.7.1944), удзельніца партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. ВЛКСМ. З крас. 1942 сувязная партыз. атрада 210-га імя Сталіна, потым у партыз. атрадзе 211-м імя Ракасоўскага. Арганізатар і кіраўнік маладзёжнай дыверсійнай групы, якая знішчыла 8 эшалонаў (адзін з іх асабіста К.), 7 аўта- і бронемашын, 7 мастоў, 2 гарнізоны праціўніка. Загінула ў баі. Яе імем названа вуліца ў г. Асіповічы, у в. Ліпень Асіповіцкага р-на ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**КУНЬКО́Ў** Фёдар Сямёнавіч (22.2. 1900, в. Сухое Іванаўскага р-на Брэсцкай вобл.— 15.7.1969), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Пінскай вобл. Чл. КПСС з 1929. З 1918 у Чырв. Арміі. Удзельнік грамадз. вайны. У 1935—41 на адм.-гасп. рабоце ў Мінску і Пінску. У партызанах з чэрв. 1941: нам. камандзіра атрада, упаўнаважаны Пінскага падп. абкома КП(б)Б, у канцы 1942 — сак. 1944 сакратар Іванаўскага падп. РК КП(б)Б, адначасова ў крас. 1943 — сак. 1944 камісар *партызанскай брыгады імя В. М. Молатава.* Пасля вайны на гасп. рабоце ў Пінску. Яго імем названы вуліцы ў г. Іванава і ў вёсках Трудавая і Махро Іванаўскага р-на.

**КУ́ПАВАЦКІ БОЙ 1942,** бой паміж партызанамі брыгады Заслонава (гл. *Партызанская брыгада 1-я імя К. С. Заслонава)* і карнай экспедыцыяй праціўніка ў вёсцы Купаваць Сенненскага р-на 14.11.1942.

Разведка партызан 13.11.1942 данесла, што на раёны на Пн і ПнЗ ад Смалян Аршанскага р-на, якія кантралявала партыз. брыгада, рыхтуецца наступленне буйных сіл карнікаў. У в. Купаваць, дзе знаходзіўся штаб брыгады і частка партыз. падраздзяленняў, павінна была адбыцца нарада камандзіраў і камісараў атрадаў. У ноч на 14 ліст. камандзір брыгады К. С. *Заслонаў* выставіў засады на дарогах у напрамках вёсак Кузьміно і Утрылава.

Раніцай праціўнік пачаў наступленне. З боку в. Кузьміно засада партызан пад кіраўніцтвам камісара брыгады Л. І. *Сяліцкага,* якая была ўзброена 2 кулямётамі і 7 аўтаматамі, за дзень адбіла 3 атакі і не прапусціла фашыстаў. Выстаўленая на дарозе на в. Утрылава партыз. засада раніцай, без дазволу Заслонава знялася і пайшла ў в. Купаваць. Карнікі, якія тут наступалі, сканцэнтраваліся ў лесе, скрытна падышлі да в. Купаваць і раптоўна атакавалі партызан. Завязаўся жорсткі бой невял. групы партызан (каля 25 чал.). Заняўшы абарону на ўскраіне вёскі, партызаны кулямётным і аўтаматным агнём стрымлівалі карнікаў. Заслонаў, які знаходзіўся ў баявых парадках партызан, кіраваў боем. Але сілы былі няроўнымі. Калі змоўк партыз. кулямёт, фашысты кінуліся ў атаку на пазіцыі партызан. Знішчыў больш за 25 салдат і афіцэраў праціўніка, партызаны адышлі ў лес. У баі загінулі Заслонаў і яшчэ 4 партызаны. Карнікі хутка пакінулі палаючую в. Купаваць. Загінуўшых у баі партызан пахавалі ў брацкай магіле недалёка ад в. Купаваць. У 1947 астанкі Заслонава і яго ад'ютанта Я. В. Коржаня перапахавалі каля чыг. вакзала ст. Орша, на магіле пастаўлена мемар. пліта, побач у 1955 — помнік Заслонаву. *А. Я. Андрэеў.*

**КУ́ПІСКІЯ БАІ́ 1944,** баі *партызанскай брыгады Першамайскай, партызанскай брыгады імя А. В. Суворава* супраць ням.-фаш. акупантаў у в. Купіск Любчанскага р-на ў чэрв. і ліп. 1944.

Фаш. гарнізон у в. Купіск колькасцю больш за 200 салдат і афіцэраў з'яўляўся буйным абарончым вузлом, які блакіраваў партызанам выхад цераз Нёман у Любчанскі р-н. У час наступлення Чырв. Арміі ён набываў асабліва важнае значэнне.

У ноч на 17.6.1944 тры штурмавыя групы з атрадаў імя 1 Мая, імя Жданава і «Кастрычнік» (партыз. брыгада імя Суворава і атрад імя Я. Коласа знаходзіліся ў рэзерве) на чале з камандзірам Першамайскай брыгады Н. Г. *Кавалёвым* у выніку раптоўнай атакі знішчылі і ўзялі ў палон 29 гітлераўцаў, захапілі 2 станковыя і 2 ручныя кулямёты, 22 вінтоўкі, пашкодзілі 2 дзоты. У час бою партызан атрада «Кастрычнік» камсамолец М. А. *Белуш* закрыў сваім целам амбразуру варожага дзота.

Неўзабаве фашысты прыслалі дадатковыя сілы, аднавілі дзоты, умацавалі абарончыя збудаванні. У ноч на 2 ліп. партызаны Першамайскай брыгады фарсіравалі Нёман і акружылі в. Купіск.

Пасля непрацяглага бою гарнізон здаўся ў палон. У ходзе баёў загінула 8 партызан. На месцы гібелі Белуша ў в. Купіск у 1965 пастаўлена стэла. *М. Ф. Шумейка.*

**КУПРЫЁНКА** Ілья Кірэевіч (н. 28.8. 1916, в. Сабалёўка Клімавіцкага р-на), поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПСС з 1953. З 1943 на Бранскім, Зах., Бел., 2-м Бел. франтах. Камандзір аддзялення яфрэйтар К. вызначыўся ў баях ва Усх. Прусіі: 23.1.1945 на чале групы разведчыкаў прабраўся ў варожы тыл, разведаў размяшчэнне агнявых кропак і жывой сілы праціўніка; 29.1.1945 разведаў шляхі падыходу да населенага пункта Бішафсбург; 8.3.1945 выявіў рух па шашы варожай пяхоты і аўтамашын, пры іх ліквідацыі знішчыў 5, узяў у палон 6 гітлераўцаў. Пасля вайны на гасп. рабоце.

**КУПРЫЯ́НАВА** Настасся Фамінічна (10.4.1872, в. Мяхеды Лагойскага р-на — 13.4.1979), маці-патрыётка, 5 сыноў якой загінулі ў барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі, малодшы з іх — П. І. *Купрыянаў* удастоены звання Героя Сав. Саюза. У гады Сав. улады калгасніца. У Айч. вайну, калі сыны Міхаіл, Уладзімір і Пётр пайшлі ў партыз. атрад «Радзіма» брыгады «Разгром», знаходзілася ў партыз. зоне, дзе дапамагала партызанам. Адна з старэйшых жанчын Беларусі, пражыла 107 гадоў. Займалася патрыятычным выхаваннем моладзі: наведвала вайсковую часць, у якую навечна залічаны яе сын Пётр, месца яго подзвігу ў Кулдыгскім р-не Латвійскай ССР, дзе імя П. І. Купрыяна-

ва носяць камсам. арг-цыі калгаса «Дарбс», саўгаса «Нікрацэ» і піянерская дружына Нікрацкай школы. Сустракалася з будаўнікамі камсамольска-маладзёжнай брыгады Саяна-Шушанскай ГЭС, ганаровым членам якой з'уляецца яе сын. Стала праабразам гераіні *Манумента ў гонар Савецкай Маці-патрыёткі*, пастаўленага ў 1975 у г. Жодзіна. Яе партрэт бел. мастака П. Крохалева знаходзіцца ў Галерэі Маці, створанай пры «Комсомольской правде». Ганаровы грамадзянін Жодзіна (1972). У доме, дзе яна жыла, адкрыты Музей Маці-патрыёткі (1980).

**КУПРЫЯ́НАЎ** Пётр Іванавіч (1926, г. Жодзіна — 2.11.1944), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. ВЛКСМ. У Айч. вайну ў атрадзе «Радзіма» *партызанскай брыгады «Разгром»*. У Чырв. Арміі з 1944. У ліст. 1944 у час ліквідацыі акружанай у Прыбалтыцы групоўкі ворага яфрэйтар К. у баі за вышыню ў Кулдыгскім р-не Латвійскай ССР гранатамі знішчыў 2 кулямёты праціўніка, але агонь варожага дзота не даваў магчымасці наступаць батальёну. К. падпоўз да дзота, кінуўся ўперад і закрыў сваім целам амбразуру. Байцы батальёна, натхнёныя подзвігам К., авалодалі вышынёй. Навечна залічаны ў спісы стралк. роты мотастралк. палка. У размяшчэнні роты музей К. Каля в. Ліелдзэльда Кулдыгскага р-на і на радзіме яму пастаўлены помнікі. Імем К. названы вуліцы ў Вілейцы, Жодзіне, Мінску, Полацку, Слуцку, Смалявічах, сярэдняя школа № 1 у Жодзіне, саўгас у Смалявіцкім р-не. У Жодзіне музей К.

**КУПРЫЯ́НАЎ** Фёдар Паўлавіч (н. 5.2. 1922, в. Марчанкі Гарадоцкага р-на), ген.-лейтэнант (1969). Чл. КПСС з 1943. Скончыў ваен. акадэміі імя Фрунзе (1948), Генштаба (1965). У Чырв. Арміі з 1941. З 1942 на Данскім, Сцяпным, 2-м і 1-м Укр. франтах: нам. камандзіра роты, нач. разведкі, нам. нач. штаба, нач. штаба палка. Удзельнік Сталінградскай бітвы, Кіраваградскай, Корсунь-Шаўчэнкаўскай, Львоўска-Сандамірскай, Яска-Кішынёўскай, Вісла-Одэрскай і інш. аперацый. Пасля вайны на адказных пасадах у Сав. Арміі.

**КУПРЭ́ЕЎ** Аляксандр Клаўдзіевіч (26. 9.1900, г. Беласток — 26.8.1975), ген.-лейт. інтэндандцкай службы (1944). Чл. КПСС з 1927. У арміі з 1914, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў курсы пры Ваенна-марской акадэміі (1929) і курсы ўдасканалення начсаставу пры Ваен.-паветр. акадэміі (1931). У Айч. вайну нам. начальніка ВПС ВМФ і нач. тылу ВПС ВМФ. Пасля вайны да 1956 на камандных пасадах у Сав. Арміі.

**КУРАНЕ́Ц,** вёска, цэнтр сельсавета ў Вілейскім р-не. За 8 км на Пд ад Вілейкі, за 1 км да чыг. раз'езда Куранец на лініі Вілейка — Полацк, на аўтадарозе Вілейка — Докшыцы. У 1940—46 гар. пасёлак, цэнтр Куранецкага р-на. 25.6.1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў К. і раёне 2590 чал. Партызаны брыгады «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага ў ноч на 1.10. 1943 разграмілі варожы гарнізон у К. У К. і раёне дзейнічалі *Вілейска-Куранецкае партыйна-камсамольскае падполле.* Куранецкія падп. райкомы КП(б)Б (17.10.1943— 2.7.1944) і ЛКСМБ (10.10.1943— 2.7.1944), партыз. брыгады 1-я Антыфашысцкая, 2-я імя Суворава, імя Варашылава, імя Даватара, імя Будзённага, «За Савецкую Беларусь», Смаленскі партыз. полк, партыз. атрад «Трэція» (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«Народный мститель»*. Вызвалены 2.7.1944 партыз. брыгадай імя Даватара. У К. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму, на якіх пастаўлены помнікі; помнік падпольшчыкам, мемарыяльная дошка ў гонар разгрому ў К. партызанамі варожага гарнізона. *У. М. Якубоўскі.*



Курган Славы Савецкай Арміі — вызваліцельніцы Беларусі.

**КУ́РАЧКІН** Павел Аляксеевіч (н. 19.11.1900, в. Горнева, Вяземскі р-н Смаленскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1945), ген. арміі (1959). Чл. КПСС з 1920. Скончыў ваен. акадэміі імя Фрунзе (1932), Генштаба (1940). Удзельнік грамадз., сав.-фінл. 1939—40 войнаў. З ліп. 1941 камандуючы 20-й арміяй у складзе Зах. фронту,



І. К. Купрыенка. П. І. Купрыянаў.

якая вяла абарончыя баі на тэр. Беларусі, удзельнічаў у *Смаленскай бітве 1941*, са жн. 1941 камандуючы 43-й арміяй, прадстаўнік Стаўкі ВГК, камандуючы, нам. камандуючага Паўн.-Зах., 1-м Укр., 2-м Бел. франтамі. Пасля вайны на адказных пасадах у войску. З 1970 у Міністэрстве абароны СССР.

**КУРГА́Н СЛА́ВЫ САВЕ́ЦКАЙ А́РМІІ — ВЫЗВАЛІ́ЦЕЛЬНІЦЫ БЕЛАРУ́СІ,** помнік у гонар подзвігу воінаў 1-га, 2-га, 3-га Бел. і 1-га Прыбалт. франтоў у *Беларускай аперацыі 1944*. Узведзены на 21-м км шашы Мінск — Масква. Закладзены 30.9.1966 прадстаўнікамі гарадоў-герояў Масквы, Ленінграда, Валгаграда, Севастопаля, Адэсы, Кіева, Брэсцкай крэпасці-героя, працоўных, вайсковых часцей Мінска і Мінскай вобл. Адкрыты 5.7.1969 (скульпт. А. Бембель, арх. А. Стаховіч, Дзярж. прэмія БССР 1970; скульпт. А. Арцімовіч, арх. Л. Міцкевіч, інж. В. Лапцэвіч). Вышыня кургана 35 м, на вяршыні яго 4 абліцаваныя тытанам штыкі-абеліскі (35,6 м кожны), якія сімвалізуюць франты — удзельнікі вызвалення Беларусі. У іх ніжняй частцы мазаічныя выявы ордэнаў Айч. вайны і Славы. Аснову штыкоў акружае шырокае кольца, унутры якога мазаічны надпіс «Арміі Савецкай, Арміі-вызваліцельніцы — слава!». На вонкавай паверхні кольца абліцаваныя залацістай смальтай барэльефныя выявы воінаў усіх родаў войск і партызан. Да агляднай пляцоўкі на вяршыні вядуць 2 бетанаваныя лесвіцы. Каля падножжа кургана гранітная пліта з інфармацыйным тэкстам, на схіле мемар. пліта з надпісам. Вакол разбіты мемар. парк з штучным басейнам. Філіял *Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.*

**КУРГА́НСКІ БОЙ 1942,** бой партызанскіх атрадаў «Штурм», «Грозны», «За Бацькаўшчыну», «Вясна» (гл. ў арт. *Партызанская брыгада «Штурмавая»*) супраць ням.-фаш. захопнікаў у в. Курганы Заслаўскага р-на 31.10.1942.

Пасля данясення партыз. разведкі аб прасоўванні батальёна карнікаў (каля 300 гітлераўцаў) партызаны вырашылі разграміць праціўніка.

Атрады ўступілі ў бой з карнікамі на р. Удра ў в. Курганы і пасля 5-гадзіннага бою прымусілі іх уцякаць. На шляху адступлення ў пас. Шаршуны гітлераўцы былі сустрэты партыз. засадай, якую зрабіў партыз. атрад «Грозны». У выніку бою знішчана 95 карнікаў і больш за 120 паранена. Партызаны захапілі гармату, 3 мінамёты, 2 кулямёты, 2 аўтаматы, 15 вінтовак і вял. колькасць боепрыпасаў. *М. Ф. Шумейка.*

**КУРГАНЫ́ СЛА́ВЫ,** земляныя насыпы з мемарыяльнымі архіт. ці скульпт. надбудовамі, якія ўвекавечваюць подзвіг сав. народа ў Айч. вайну, памяць землякоў, што загінулі ў барацьбе за Радзіму. На тэр. Беларусі больш за 180 К. С. (на 1.1.1989; гл. табл.), самы велічны з іх *Курган Славы Савецкай Арміі — вызваліцельніцы Беларусі*. Некаторыя К. С. называюць курганамі Бессмяротнасці, курганамі Вечнай Славы, курганамі Памяці. У шэрагу месцаў К. С. ўваходзяць у мемар. комплексы.



Курган Славы ў Гродне.



Курган Славы ў Полацку.



Курган Бессмяротнасці ў Лідзе.



Курган Славы ў Гомелі.

| Раён, населены пункт | З якой нагоды насыпаны | Год адкрыцця |
|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 |
| | **Брэсцкая вобласць** | |
| Бярозаўскі, в. Зубачы, урочышча Буслаўка | На ўшанаванне памяці сав. воінаў-вызваліцеляў у Айч. вайну | 1967 |
| в. Мормажава, за 7 км на ПнЗ | На брацкай магіле 7 сав. воінаў, якія загінулі ў Айч. вайну, і 9 ахвяр фашызму | 1966 |
| г. Ганцавічы, урочышча Горкі | На ўшанаванне памяці 8 тыс. жыхароў раёна, загубленых ням.-фаш. захопнікамі, і 855 землякоў — сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Айч. вайну. | 1967 |
| Ганцавіцкі, в. Боркі | На ўшанаванне памяці 57 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну. | 1967 |
| в. Дзяніскавічы | На ўшанаванне памяці 150 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1964 |
| в. Люсіна | На ўшанаванне памяці 99 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1967 |
| в. Чудзін, за 4 км на Пд | На магіле 10 сав. актывістаў, расстраляных у 1941 ням.-фаш. захопнікамі | 1967 |
| Драгічынскі, в. Аляксеевічы | На ўшанаванне памяці 38 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1968 |
| в. Брашэвічы | На ўшанаванне памяці 144 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1975 |
| в. Гутава | На ўшанаванне памяці сав. воінаў, партызан і мірных жыхароў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1966 |
| в. Заверша | На ўшанаванне памяці 131 аднавяскоўца, якія загінулі ў Айч. вайну | 1970 |
| в. Осаўцы | На ўшанаванне памяці 48 сав. воінаў, партызан і мірных жыхароў, якія загінулі ў Айч. вайну. | 1965 |
| в. Пярковічы | На ўшанаванне памяці 21 воіна-аднавяскоўца, якія загінулі ў Айч. вайну | 1968 |
| в. Сіманавічы | На ўшанаванне памяці 128 сав. воінаў, партызан і мірных жыхароў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1967 |
| Жабінкаўскі, на месцы б. в. Драмлёва, за 1 км на У ад в. Сцяпанкі | На ўшанаванне памяці 286 жыхароў, знішчаных разам з вёскай 11.9.1942 ням.-фаш. захопнікамі | 1967 |
| в. Ракітніца | На ўшанаванне памяці 116 аднавяскоўцаў і землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1967 |
| Іванаўскі, в. Ональ | На ўшанаванне памяці 141 земляка — сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Айч. вайну | 1967 |
| Івацэвіцкі, в. Амяльная | На ўшанаванне памяці 50 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1968 |
| в. Выганашчы | На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1967 |
| г. п. Целяханы | На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1967 |
| г. Лунінец | На брацкай магіле 4474 сав. воінаў, партызан і мірных жыхароў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1967 |
| Ляхавіцкі, в Мінічы, за 2 км на Пн | На месцы баёў у Айч. вайну і на ўшанаванне памяці сав. воінаў і партызан, якія загінулі за свабоду і незалежнасць Радзімы | 1967 |
| г. Маларыта, урочышча Мелавая Гара | На магіле 76 сав. воінаў 75-й стралк. дывізіі 4-й арміі, якія загінулі ў чэрв. 1941 у баях супраць ням.-фаш. захопнікаў | 1969 |
| Маларыцкі, в. Брадзяцін | На ўшанаванне памяці 48 жыхароў, расстраляных у 1942 ням.-фаш. захопнікамі | 1965 |
| в. Гвозніца, урочышча Клён | На месцы дыслакацыі ў 1943 атрада імя К. Я. Варашылава партыз. брыгады імя У. І. Леніна | 1965 |
| на месцы б. в. Зялёная Буда, за 1,5 км на Пд ад в. Баравая | На ўшанаванне памяці 28 жыхароў, знішчаных разам з вёскай 9.10.1942 ням.-фаш. захопнікамі | |
| в. Макраны, за 2 км на ПдУ | У гонар баёў у сак. 1944 сав. воінаў 70-й арміі 1-га Бел. фронту і партызан | 1970 |

**КУРКЕ́ВІЧ** Карл Станіслававіч (н. 17.10.1926, г. Мазыр), поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПСС з 1954. У Айч. вайну ў партызанах, разведчык, з 1944 на фронце. Радавы К. вызначыўся ў баях на тэр. Германіі. 4.2.1945 на подступах да г. Франкфурт пры адбіцці 2 контратак праціўніка знішчыў да 15 гітлераўцаў; 26.2.1945 з яго ўдзелам захоплены 2 «языкі»; 19—20.4.1945 пры адбіцці варожых контратак на левым беразе Одэра падняў байцоў у атаку, знішчыў 31 і ўзяў у палон 2 гітлераўцаў. Пасля вайны на гасп. рабоце.

**КУ́РСКАЯ БІ́ТВА 1943**, адна з вырашальных аперацый Чырв. Арміі ў Вял. Айч. вайну; адна з буйнейшых бітваў 2-й сусв. вайны. Складалася з 2 перыядаў: абарончых баёў (5—23 ліп.) і контрнаступлення (12 ліп.—23 жн.). Летам 1943 ням.-фаш. камандаванне падрыхтавала наступленне пад кодавай назвай «Цытадэль» на т. зв. Курскі выступ, плануючы сустрэчнымі ўдарамі з раёнаў Арла і Харкава акружыць і знішчыць сав. войскі, авалодаць стратэгічнай ініцыятывай і павярнуць ход вайны на сваю карысць. Тут гітлераўцы сканцэнтравалі войскі груп армій «*Цэнтр*» (ген.-фельдмаршал Г. Клюге) і «Поўдзень» (ген.-фельдмаршал Э. Манштэйн): 50 дывізій (больш за 900 тыс. чал., да 2,7 тыс. танкаў і штурмавых гармат, каля 10 тыс. гармат і мінамётаў, каля 2050 самалётаў). Акрамя таго, на флангах ударных груповак дзейнічала каля 20 дывізій. Разгадаўшы намеры ворага, сав. камандаванне падрыхтавала моцную абарону з 8 палос і рубяжоў глыбінёй да 300 км, каб у ходзе абарончых баёў абяскровіць ударныя групоўкі праціўніка і перайсці ў контрнаступленне. Абарону паўн. раёна Курскага выступу трымалі войскі Цэнтр. фронту (ген. арміі К. К. *Ракасоўскі*), паўд.— войскі Варонежскага фронту (ген. арміі М. Ф. Ватуцін); 1336 тыс. чал., больш за 19 тыс. гармат і мінамётаў, 3444 танкі і САУ, 2172 самалёты. У тыле гэтых франтоў знаходзіўся рэзерв — Сцяпны фронт (ген.-палк. І. С. *Конеў*). Для наступлення былі падрыхтаваны Зах., Бранскі франты і 57-я армія Паўд.-Зах. фронту. Каардынавалі дзейнасць франтоў прадстаўнікі Стаўкі ВГК Маршалы Сав. Саюза Г. К. *Жукаў* і А. М. *Васілеўскі*. Раніцай 5 ліп. сав. артылерыя нанесла апераджальны ўдар па раёнах сканцэнтравання варожых войск, прычыніўшы ім вял. страты. Згубіўшы ініцыятыву, праціўнік ужо ў першы дзень павінен быў увесці ў дзеянне асн. сілы. Да 12 ліп. наступленне ням.-фаш. войск у палосе Цэнтр. фронту было спынена канчаткова. Пасля буйнейшай у гісторыі войнаў сустрэчнай танк. бітвы ў р-не в. Про-

| 1 | 2 | 3 |
| --- | --- | --- |
| | брыгады імя І. В. Сталіна супраць ням.-фаш. захопнікаў | 1965 |
| в. Малінаўка, за 2,5 км на З | На ўшанаванне памяці расстраляных ням.-фаш. захопнікамі ў 1941—44 членаў сем'яў абаронцаў Брэсцкай крэпасці, партызан і сав. актывістаў | 1967 |
| в. Хаціслаў, за 1 км на ПнЗ | У гонар сав. воінаў 75-й стралк. дывізіі 4-й арміі, якія 25.6.1941 вялі бой супраць ням.-фаш. захопнікаў | 1967 |
| Пружанскі, г. п. Ружаны, за 2 км на Пн | На магіле 127 сав. воінаў 22-й і 25-й танк. дывізій Зах. фронту, якія 26.6—1.7.1941 загінулі ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў | 1967 |
| | **Віцебская вобласць** | |
| г. п. Бешанковічы | На ўшанаванне памяці сав. воінаў, партызан і землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1966 |
| Браслаўскі, в. Бабылі, за 7 км на Пн | На ўшанаванне памяці 460 жыхароў вёскі Стайкі, загубленых у 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1965 |
| в. Опса | На ўшанаванне памяці больш як 200 аднавяскоўцаў, расстраляных ням.-фаш. захопнікамі | 1963 |
| в. Пагошча, за 3 км на Пд | На магіле 34 жыхароў вёскі Лабэцкія, загубленых у 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1972 |
| в. Стаўрова, за 2 км на Пн | На магіле 290 жыхароў навакольных вёсак, расстраляных у 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1968 |
| Верхнядзвінскі, на месцы б. в. Абразеева, за 2 км на З ад в. Сар'я | На ўшанаванне памяці 36 жыхароў, спаленых разам з вёскай у лют. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1982 |
| в. Азерпікі | На ўшанаванне памяці 45 аднавяскоўцаў, закатаваных ням.-фаш. захопнікамі | 1967 |
| г. п. Асвея | На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1964 |
| на месцы б. в. Баравыя, за 2 км на ПнУ ад в. Ліпаўкі | На ўшанаванне памяці 21 жыхара, спаленых разам з вёскай у сак. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1976 |
| на месцы б. в. Барысава, за 1,5 км на ПнУ ад в. Селішча | На ўшанаванне памяці 76 жыхароў, спаленых разам з вёскай у сак. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1982 |
| на месцы б. в. Бузава, за 3 км на ПдУ ад в. Леснікова | На ўшанаванне памяці 150 жыхароў, спаленых разам з вёскай у лют. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1965 |
| в. Бяляны | На ўшанаванне памяці 57 жыхароў в. Агуркі, спаленых разам з вёскай у лют. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1982 |
| в. Вароны | На ўшанаванне памяці 12 жыхароў, расстраляных у лют. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1984 |
| на месцы б. в. Верхняе Ступжава, за 2 км на ПдЗ ад в. Сар'я | На ўшанаванне памяці 58 жыхароў, спаленых разам з вёскай у лют. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1982 |
| на месцы б. в. Еськава, за 1 км на ПдЗ ад в. Каханавічы | На ўшанаванне памяці 28 жыхароў, спаленых разам з вёскай у лют. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1982 |
| на месцы б. в. Жалабоўшчына, за 3 км на Пд ад в. Мотужы | На магіле 36 жыхароў, спаленых разам з вёскай у лют. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1975 |
| на месцы б. в. Жарнасекі, за 5 км на ПнУ ад в. Вознава | На ўшанаванне памяці 38 жыхароў, спаленых разам з вёскай у лют. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1982 |
| на месцы б. в. Залешчына, за 1 км на ПдУ ад в. Мотужы | На ўшанаванне памяці 60 жыхароў, спаленых разам з вёскай у лют. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1975 |
| на месцы б. в. Зянькі, за 1 км на Пд ад в. Муквяціца | На ўшанаванне памяці 40 жыхароў, спаленых разам з вёскай у лют. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1982 |
| на месцы б. в. Калюты, за 5,5 км на ПнЗ ад в. Сар'я | На ўшанаванне памяці 64 жыхароў, спаленых разам з вёскай у лют. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1982 |
| на месцы б. в. Канстанцінава, за 1 км на ПдЗ ад в. Мотужы | На ўшанаванне памяці 17 жыхароў, спаленых разам з вёскай у лют. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1982 |
| в. Каралёва | На ўшанаванне памяці 95 жыхароў, спаленых разам з вёскай у лют. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1984 |

хараўка праціўнік вымушаны быў перайсці да абароны і ў палосе дзеянняў Варонежскага фронту. 12 ліп. пачалі контрнаступленне сав. войскі Зах. (ген.-палк. В. Д. *Сакалоўскі*) і Бранскага (ген.-палк. М. М. Папоў) франтоў на арлоўскім напрамку. 15 ліп. пачалі наступаць войскі Цэнтр. фронту, 3 жн. на белгарадска-харкаўскім напрамку — войскі Варонежскага і Сцяпнога франтоў ва ўзаемадзеянні з войскамі Паўд.-Зах. фронту


К. С. Куркевіч. У. Ц. Курыленка.

(ген. арміі Р. Я. Маліноўскі). 5 жн. вызвалены Арол і Белгарад, 23 жн.— Харкаў. Пасляховае контрнаступленне сав. войск на белгарадска-харкаўскім напрамку завяршыла К. б. У выніку 50-дзённых баёў на Курскай дузе вораг страціў 30 адборных дывізій (каля 500 тыс. чал.), у т. л. 7 танк. (1,5 тыс. танкаў), 3 тыс. гармат, болей за 3,7 тыс. самалётаў. У ходзе К. б. Чырв. Арміі дапамагалі партызаны і падпольшчыкі. Яны актыўна дзейнічалі ў тыле ням.-фаш. войск на захопленай сав. тэрыторыі, у т. л. і на Беларусі, і адцягнулі на сябе значныя сілы праціўніка. Партызаны Беларусі ў разгар баёў пад Курскам падарвалі 761 эшалон і 2 бронепаязды праціўніка. Паводле даных транспартнага аддзела групы армій «Цэнтр», у ліп. 1943 у яе тыле рух па чыгунках быў закрыты на 4922 гадз поўнасцю, а на працягу 2868 гадз паязды рухаліся толькі па адной каляіне. У сярэднім партызаны штодзённа рабілі 36 дыверсій, з якіх 32 затрымлівалі рух. За час К. б. 180 сав. воінаў атрымалі званне Героя Сав. Саюза, у іх ліку беларус лётчык А. К. *Гаравец*. Перамога пад Курскам і выхад сав. войск да Дняпра завяршылі карэнны пералом у ходзе Вял. Айч. вайны. Германія была вымушана перайсці да абароны на ўсіх тэатрах 2-й сусв. вайны. Выкарыстаўшы поспех войск Чырв. Арміі, Цэнтр. і Зах. франты ў канцы вер. 1943 уступілі на тэр. рэспублікі. *Я. С. Паўлаў.*

**КУРЫЛЕНКА** Уладзімір Цімафеевіч (25.12.1924, в. Бабінічы Віцебскага р-на —13.5.1942), Герой Сав. Саюза (1942). Чл. ВЛКСМ. У Айч. вайну з 1941 партызан-падрыўнік атрада

| 1 | 2 | 3 |
|---|---|---|
| на месцы б. в. Карзуны, за 2 км на У ад в. Грыбоўцы | На ўшанаванне памяці 11 жыхароў, спаленых разам з вёскай у лют. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1982 |
| в. Каханавічы | На ўшанаванне памяці 149 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1970 |
| в. Каханавічы | На ўшанаванне памяці 47 жыхароў в. Баравок, спаленых разам з вёскай у лют. 1943 ням. фаш. захопнікамі | 1985 |
| на месцы б. в. Кашалёва, за 1,5 км на ПдЗ ад в. Ярмоліна | На ўшанаванне памяці 37 жыхароў, спаленых разам з вёскай у сак. 1943 ням. фаш. захопнікамі | 1984 |
| на месцы б. в. Ладэлева, за 1,5 км на Пд ад в. Гісялёва | На ўшанаванне памяці 48 жыхароў, спаленых разам з вёскай у лют. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1975 |
| на месцы б. в. Ліцвякі, за 5 км на ПдУ ад в. Каханавічы | На ўшанаванне памяці 11 жыхароў, спаленых разам з вёскай у лют. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1982 |
| на месцы б. в. Маркава, за 2 км на Пд ад в. Бяляны | На ўшанаванне памяці 32 жыхароў, спаленых разам з вёскай у чэрв. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1982 |
| на месцы б. в. Матукі, за 2 км на Пн ад в. Князева | На ўшанаванне памяці 55 жыхароў, спаленых разам з вёскай у сак. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1988 |
| на месцы б. в. Межалы, за 3 км на Пн ад в. Крывасельцы | На ўшанаванне памяці 57 жыхароў, спаленых разам з вёскай у сак. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1975 |
| в. Мотужы | На ўшанаванне памяці 48 жыхароў, спаленых у лют. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1984 |
| в. Муквяціца | На ўшанаванне памяці 124 жыхароў вёсак Валюкі і Муквяціца, спаленых у лют. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1984 |
| на месцы б. в. Немцы, за 1,5 км на Пд ад в. Ворзава | На ўшанаванне памяці 22 жыхароў, спаленых разам з вёскай у сак. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1975 |
| на месцы б. в. Ніжняе Стунжава, за 2 км на Пд ад в. Сар'я | На ўшанаванне памяці 64 жыхароў, спаленых разам з вёскай у лют. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1982 |
| на месцы б. в. Плябанава, за 2 км на ПнУ ад в. Каханавічы | На ўшанаванне памяці 11 жыхароў, спаленых разам з вёскай у лют. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1975 |
| на месцы б. в. Пляцы, за 1,5 км на Пн ад в. Росіца | На магіле 39 жыхароў, спаленых разам з вёскай 16.2.1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1973 |
| в. Прошкі, за 5 км на ПнУ, на стыку граніц БССР, Латвійскай ССР і РСФСР | У памяць аб баявой садружнасці партызан Беларусі, Латвіі і Расійскай Федэрацыі | 1959 |
| на месцы б. в. Пустэльнікі, за 2 км на ПдЗ ад в. Мотужы | На магіле 57 жыхароў, спаленых разам з вёскай у лют. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1975 |
| на месцы б. в. Пушалаты, за 3 км на З ад в. Сар'я | На ўшанаванне памяці 43 жыхароў, спаленых разам з вёскай у лют. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1982 |
| на месцы б. в. Ракшні, за 2 км на Пн ад в. Сар'я | На ўшанаванне памяці 50 жыхароў, расстраляных і спаленых разам з вёскай у лют. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1988 |
| в. Сар'я, за 5 км на ПнЗ | На магіле больш як 50 жыхароў в. Фальваркова, спаленых разам з вёскай у лют. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1965 |
| на месцы б. в. Скрыпшчына, за 1 км на ПдУ ад в. Бяляны | На ўшанаванне памяці 49 жыхароў, спаленых разам з вёскай у сак. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1982 |
| на месцы б. в. Суф'янікі, за 5,5 км на ПнУ ад в. Вознава | На ўшанаванне памяці 54 жыхароў, спаленых разам з вёскай у лют. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1982 |
| на месцы б. в. Ціршава, за 3 км на Пн ад в. Росіца | На ўшанаванне памяці 23 жыхароў, спаленых разам з вёскай у 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1975 |
| на месцы б. в. Шабалы, за 3,5 км на У ад в. Грыбоўцы | На ўшанаванне 25 жыхароў, знішчаных разам з вёскай у лют. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1982 |
| Віцебскі, в. Вароны | На ўшанаванне памяці 167 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1966 |
| на месцы б. в. Ваўчкі, за 1,5 км на ПнЗ ад в. Фокіна | На ўшанаванне памяці 43 жыхароў, спаленых разам з вёскай у лют. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1968 |
| в. Гараднянскі Мох, урочышча Пяскі | На ўшанаванне памяці мірных жыхароў, расстраляных ням.-фаш. захопнікамі | 1965 |
| в. Малыжана | На магіле 84 жыхароў вёскі, расстра- | |

І. Р. *Шлапакова* (Смаленская вобл.). За 10 месяцаў падарваў некалькі аўтамашын, 2 гарматы, пусціў пад адхон 4 эшалоны з жывой сілай і тэхнікай, у выніку знішчыў больш за 1000 гітлераўцаў. Вяртаючыся з баявога задання, трапіў у засаду, быў цяжка паранены, памёр ад ран. У Айч. вайну яго імя насілі партыз. атрады ў Смаленскай вобл. Яго імем названы вуліцы ў Смаленску, Веліжы, у Смаленску яму пастаўлены помнік.

**КУРЫЛЬЧЫК** Мікалай Дзям'янавіч (5.5.1903, в. Стальбоўшчына Уздзенскага р-на —1.5.1946), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1931. У 1928—41 у Чырв. Арміі. У партызанах з жн. 1942: камандзір дыверсійнай групы, нач. штаба, з снеж. 1942 брыгады, у маі — вер. 1943 в. а. камандзіра *партызанскай брыгады 27-й імя В. І. Чапаева*, у вер. 1943— ліп. 1944 *камандзір партызанскай брыгады 101-й імя Аляксандра Неўскага.*

**КУРЫНСКІ БОЙ 1942**, бой партызан атрада Д. Ф. *Райцава* [гл. ў арт. *Партызанская брыгада 1-я Беларуская* (2-га складу)] пры садзеянні атрада А. П. Дзіка (гл. ў арт.*Партызанская брыгада імя Чырванасцяжнага Ленінскага камсамола*) супраць ням.-фаш. захопнікаў у раёне вёсак Курына, Платы і рабочага пас. Ноўка Суражскага р-на 28.3.1942.

Партызаны М. Ф. *Сільніцкі* і М. І. Купчанка 27 сак. разграмілі групу гітлераўцаў, якія рабавалі насельніцтва ў в. Вусава. На наступны дзень супраць партызан накіраваўся атрад колькасцю да 350 карнікаў, узброеных пушкай і мінамётамі.

Партызаны зрабілі засады ў вёсках Курына і Платы, каб не дапусціць карнікаў у пас. Ноўка і знішчыць іх. У выніку бою, які працягваўся 8 гадз, 115 карнікаў былі забіты і 169 паранены, знішчаны 68 падвод і пушка. Праціўнік атрымаў падмацаванне з 200 салдат і афіцэраў, і партызаны вымушаны былі адысці. У час бою загінулі камсамольцы І. С. Лапікаў і кулямётчык Сільніцкі, які знішчыў 50 гітлераўцаў. 15.5.1942 Сільніцкаму пасмяротна прысвоена званне Героя Сав. Саюза. На магілах Лапікава і Сільніцкага ў в. Курына ў 1957 і 1966 пастаўлены абеліскі.

*М. Ф. Шумейка.*

**КУТРУХІН** Канстанцін Пракопавіч (1.2.1916, в. Удзельны Шумец Чэбаксарскага р-на — 27.6.1944), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС. На фронце з 1943. Камандзір аддзялення сяржант К. вызначыўся ў чэрв. 1944 пры фарсіраванні Зах. Дзвіны ў Віцебскай вобл. і адбіцці на плацдарме 5 контратак. 27.6.1944 у баі за в. Хадакова Ушацкага р-на закрыў сваім целам амбразуру варожага дзота. Пахаваны ў в. Дубраўка Ушацкага р-на, дзе яго імя прысвоена школе.

| 1 | 2 | 3 |
|---|---|---|
| | ляных 4.2.1942 ням.-фаш. захопнікамі | 1977 |
| в. Хамякова | На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1980 |
| в. Хамякова, за 4 км на ПдУ | На месцы бою 27.3.1942 партызан атрада пад камандаваннем Д. Ф. Райцава супраць ням.-фаш. захопнікаў | 1978 |
| Гарадоцкі, в. Халамер'е, за 6 км на ПдЗ | У гонар 4-й Беларускай партыз. брыгады | 1968 |
| Глыбоцкі, в. Вострава, за 2 км на У | У гонар 1-й партыз. брыгады імя А. В. Суворава | 1970 |
| Докшыцкі, в. Вілейка | На ўшанаванне памяці 39 жыхароў вёскі, спаленых 24.6.1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1967 |
| в. Таргуны | На ўшанаванне памяці 80 землякоў — сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Айч. вайну | 1967 |
| г. Міёры | У гонар 25-годдзя вызвалення Міёрскага р-на ад ням.-фаш. захопнікаў і 50-годдзя БССР | 1969 |
| Міёрскі, в. Іванькі | На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1967 |
| г. Орша | На ўшанаванне памяці сав. воінаў, партызан і падпольшчыкаў, жыхароў Оршы і Аршанскага р-на, якія загінулі ў Айч. вайну | 1966 |
| г. Полацк | На ўшанаванне памяці 150 тыс. жыхароў Полацка і Полацкага р-на, загубленых ням.-фаш. захопнікамі, і сав. воінаў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1966 |
| Полацкі, в. Уладычына | На магіле 38 мірных жыхароў вёсак Кульнёва і Новыя Замшаны, расстраляных ням.-фаш. захопнікамі | 1964 |
| в. Уладычына | На магіле 35 мірных жыхароў вёсак Баркі, Кеўлы, Мацюшы, Парфенаўцы і Слабушчукі, расстраляных ням.-фаш. захопнікамі | 1964 |
| г. п. Расоны | У гонар партыз. брыгад імя К. К. Ракасоўскага, І. В. Сталіна, 3-й і 7-й Калінінскіх | 1965 |
| Расонскі, в. Альбрэхтава | На ўшанаванне памяці юных патрыётаў В. Прыбыткова, Г. Кузякова і У. Драздова, якія загінулі ў барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў | 1967 |
| на месцы б. в. Велле, за 1,5 км на З ад в. Ушчалёпкі | На ўшанаванне памяці 74 жыхароў, спаленых разам з вёскай у лют. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1965 |
| в. Гарбачэва | На ўшанаванне памяці 236 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1967 |
| в. Кавалі | У гонар партыз. атрада «Бясстрашны» | 1979 |
| в. Карпіна | На ўшанаванне памяці больш як 30 жыхароў, спаленых у лют. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1968 |
| в. Марачкова | У гонар Асвейскай партыз. брыгады імя М. В. Фрунзе | 1964 |
| в. Маторына | У гонар 1-й Дрысенскай партыз. брыгады | 1964 |
| в. Межава | На ўшанаванне памяці 36 жыхароў вёсак Межава і Замошша, расстраляных і спаленых 11.2.1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1968 |
| на месцы б. в. Папялкі, за 7 км на У ад в. Марачкова | На ўшанаванне памяці жыхароў, знішчаных разам з вёскай ням.-фаш. захопнікамі | 1968 |
| в. Прудок | На месцы бою партызан 2—9.7.1942 (у жн. 1942 аб'яднаны ў Расонскую брыгаду імя І. В. Сталіна) супраць ням.-фаш. захопнікаў | 1975 |
| в. Харытонава | На ўшанаванне памяці 49 аднавяскоўцаў, расстраляных у снеж. 1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1968 |
| г. Талачын | У гонар вызвалення горада і Талачынскага р-на ад ням.-фаш. акупантаў | 1969 |
| | **Гомельская вобласць** | |
| Акцябрскі, в. Слабодка | У гонар сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Айч. вайну | 1982 |
| г. п. Брагін | На магіле 8 тыс. мірных жыхароў, | |

На месцы подзвігу ўстаноўлены мемар. знак.

**КЎХАРАЎ** Фёдар Якаўлевіч (18.3. 1924, г. Добруш — 20.5.1946), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1944. У Добрушы арганізаваў збор узбраення для партызан, у Гомелі і Добрушы распаўсюджваў лістоўкі, праводзіў дыверсіі, на чыг. Гомель — Бранск пусціў пад адхон 3 варожыя эшалоны. З ліп. 1943 у партызанах, з жн. 1943 узначальваў падрыўную групу атрада *партызанскай брыгады Добрушскай імя І. В. Сталіна*, якая ўзарвала 24 варожыя эшалоны. З кастр. 1943 у Добрушы, удзельнік каманды па размініраванню, потым сакратар к-та камсамола ф-кі «Герой працы». Яго імя прысвоена сярэдняй школе № 2 г. Добруш, на будынку школы мемар. дошка.



К. П. Кутрухін. Ф. Я. Кухараў.

**КУХАРЭНКА** Іван Міхайлавіч (19.1. 1917, в. Галавічы Горацкага р-на Магілёўскай вобл. — 18.8.1970), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху на тэр. Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1943. Скончыў ваен. вучылішча ў Ленінградзе (1939). З крас. 1941 у ВМФ на Балтыйскім моры. У пачатку вайны камандзір стралк. роты на востраве Дага. У кастр. 1941 у баі за востраў ранены, трапіў у палон, уцёк. З студз. 1942 у партызанах: камандзір узвода ў атрадзе імя Сяргея, з ліп. камандзір атрада імя Калініна, які ў жн. 1942 увайшоў у склад Дрысенскай партыз. брыгады. У выніку росту атрада на яго аснове створаны 2-і і 3-і атрады імя Калініна. З кастр. 1943 да злучэння з часцямі Чырв. Арміі (12.7.1944) камандзір *партызанскай брыгады 2-й Дрысенскай*. З 1944 на сав. і адм. рабоце ў Полацку і Ленінградзе.

**КУЦА́К** Андрэй Авяр'янавіч (17.7. 1903, с. Жардзенаўка Гайсінскага р-на Вінніцкай вобл. — 12.1.1974), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Гомельскай вобл., дзярж. дзеяч БССР. Чл. КПСС з 1927. Скончыў Тыфліскі лесатэхн. ін-т (1934), працаваў на Гомельскім дрэваапрацоўчым камбінаце. З 1939 сакратар Гомельскага гаркома, потым абкома КП(б)Б. У жн. 1941 — ліст. 1942 сакратар

| 1 | 2 | 3 |
|---|---|---|
| | загубленых у 1941—43 ням.-фаш. захопнікамі | 1957 |
| г. Буда-Кашалёва | На ўшанаванне памяці сав. воінаў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1971 |
| Буда-Кашалёўскі, в. Гаўлі, за 2 км на У | На ўшанаванне памяці 600 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1969 |
| г. Гомель | У гонар 50-годдзя Сав. улады і на ўшанаванне памяці сав. воінаў і партызан, якія загінулі за свабоду і незалежнасць Радзімы | 1968 |
| Ельскі, в. Дуброва | На ўшанаванне памяці 136 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1967 |
| в. Старое Высокае | На ўшанаванне памяці 144 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1967 |
| Жыткавіцкі, в. Кольна | На ўшанаванне памяці 75 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1957 |
| в. Ленін | На брацкай магіле 1250 сав. ваеннапалонных і мірных жыхароў, расстраляных у 1941—42 ням.-фаш. захопнікамі | 1972 |
| Калінкавіцкі, в. Агароднікі | На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1981 |
| в. Вялікія Аўцюкі | На ўшанаванне памяці 182 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1986 |
| в. Зеляночы | На ўшанаванне памяці 134 жыхароў Зеляноцкага сельсавета, якія загінулі ў Айч. вайну | 1971 |
| в. Казанск | На ўшанаванне памяці 75 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1965 |
| в. Кошчычы | На ўшанаванне памяці 82 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1975 |
| в. Нахаў | На ўшанаванне памяці 60 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1971 |
| в. Прудок | На ўшанаванне памяці 212 сав. воінаў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1967 |
| Кармянскі, в. Касцюкоўка | На ўшанаванне памяці сав. воінаў, якія вызвалілі раён ад ням.-фаш. захопнікаў | 1968 |
| Лоеўскі, в. Пярэдзелка | На ўшанаванне памяці 387 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1967 |
| г. Мазыр | На ўшанаванне памяці 212 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943—44 у баях супраць ням.-фаш. захопнікаў | 1977 |
| г. Рагачоў | На ўшанаванне памяці 4859 жыхароў раёна — сав. воінаў, партызан і падпольшчыкаў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1967 |
| Рэчыцкі, в. Азершчына | На ўшанаванне памяці 225 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну, і ў гонар 20-годдзя перамогі над фаш. Германіяй | 1965 |
| в. Бабічы | На ўшанаванне памяці 65 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1958 |
| в. Глыбаў | На ўшанаванне памяці 106 землякоў — сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Айч. вайну | 1965 |
| в. Чорнае | На ўшанаванне памяці 340 жыхароў сельсавета, якія загінулі ў Айч. вайну | 1975 |
| Светлагорскі, в. Судавіца, за 2 км на ПдЗ | У памяць аб пачатку Беларускай аперацыі 1944 | 1970 |
| Чачэрскі. в. Отар. за 1,5 км на З | На ўшанаванне памяці 469 воінаў-землякоў і 213 мірных жыхароў Чачэрскага сельсавета, якія загінулі ў Айч. вайну | 1975 |
| | **Гродзенская вобласць** | |
| Ашмянскі. в. Гарэцкаўшчына | На ўшанаванне памяці 4 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1967 |
| в. Граўжышкі | На ўшанаванне памяці 10 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1967 |
| в. Рудзішкі | На ўшанаванне памяці 14 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1967 |
| в. Шчапанавічы | На ўшанаванне памяці 9 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1967 |
| в. Ягелаўшчына, урочышча Ройста | На магіле 353 жыхароў г. Ашмяны, расстраляных 4.7.1941 ням.-фаш. захопнікамі | 1967 |
| г. Гродна | На ўшанаванне памяці загінуўшых барацьбітоў за Сав. ўладу, за ўз'яднанне Зах. Беларусі з БССР, а так- | |

*Гомельскага падпольнага абкома КП(б)Б.* З жн. 1943 упаўнаважаны ЦК КП(б)Б, ЦШПР на Цэнтр. фронце па каардынацыі дзейнняў партызан з наступаючымі сав. войскамі. З ліст. 1943 сакратар Гомельскага абкома КП(б)Б. З 1952 старшыня, 1-ы нам. старшыні Гомельскага аблвыканкома. У 1956—63 міністр папяровай і дрэваапрацоўчай прамысловасці БССР, нач., 1-ы нам. нач. Упраўлення лясной, папяровай і дрэваапрацоўчай прамысловасці Саўнаргаса БССР. Канд. у чл. ЦК КПБ у 1940—60. Дэп. ВС БССР у 1951—59.

**КУЦЕ́ПАЎ** Сямён Фёдаравіч (19.5. 1896, в. Калмыкі Балахаўскага р-на Тульскай вобл.— 26.7.1941), удзельнік *Магілёва абароны 1941*, палкоўнік. Чл. КПСС з 1939. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1939). З 1918 у Чырв. Арміі. Удзельнік 1-й сусв., грамадз., сав.-фінляндскай 1939—40 войнаў. У час абароны Магілёва (3—26.7.1941) камандаваў 388-м стралк. палком 172-й стралк. дывізіі 61-га корпуса 13-й арміі Зах. фронту. Полк пад яго камандаваннем вызначыўся, абараняючы рубеж Цішаўка — Буйнічы — Сялец (на ПнЗ ад Магілёва), перакрыўшы аўтадарогу Магілёў — Бабруйск і чыгунку Магілёў — Жлобін. На гэтым напрамку ням. камандаванне сканцэнтравала буйныя сілы і плаціравала гал. ўдар з мэтай захапіць Магілёў. Найбольш жорсткія баі разгарнуліся 11—13 ліп. каля в. Буйнічы (гл. *Буйніцкае поле*); свае пазіцыі воіны палка ўтрымлівалі да 22 ліп., пазней удзельнічалі ў вулічных баях. К. загінуў у час абароны Магілёва. Карэспандэнт газеты «Известия» пісьменнік К. Сіманаў, які каля сутак з 13 на 14 ліп. знаходзіўся на пазіцыях палка каля в. Буйнічы, падзеі абароны апісаў у дзённіку «Розныя дні вайны» і ў рамане «Жывыя і мёртвыя», дзе правобразам галоўнага героя Сярпіліна з'яўляецца К. Яго імем названа вуліца ў Магілёве, на Буйніцкім полі пастаўлены помнік у гонар воінаў 388-га стралк. палка.

**КУЧЫ́НСКІ** Міхаіл Іванавіч (н. 23.12. 1911, в. Прысна Магілёўскага р-на), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1944. У Чырв. Арміі з 1932. З 1943 на Варонежскім, Бранскім, Цэнтр., Бел., 1-м Бел. франтах. Удзельнік вызвалення Гомеля, Жлобіна, Бабруйска, Слуцка. У баях за г. Ковель па разведданых нам. камандзіра штурмавой авіяэскадрыллі капітана К. група штурмавікоў ліквідавала вял. колькасць артылерыі праціўніка. Да жн. 1944 зрабіў 93 баявыя вылеты, збіў 7 самалётаў, знішчыў 2 танкі, 6 гармат, 11 зенітных кропак, 52 аўтамашыны, 2 склады з боепрыпасамі. За гады вайны К. зрабіў 210 баявых вылетаў. Да 1978 працаваў на мета-

| 1 | 2 | 3 |
|---|---|---|
| | сама сав. воінаў, партызан і падпольшчыкаў, якія аддалі жыццё за перамогу над фашызмам у Айч. вайну | 1969 |
| Зэльвенскі, в. Бародзічы | На ўшанаванне памяці 17 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1967 |
| Іўеўскі, в. Сурвілішкі | На ўшанаванне памяці воінаў 24-й Самара-Ульянаўскай Жалезнай стралк. дывізіі, якія загінулі ў чэрв. 1941 у баях супраць ням.-фаш. захопнікаў | 1967 |
| г. п. Карэлічы | На ўшанаванне памяці 227 сав. воінаў і партызан, 1864 жыхароў Карэліцкага р-на, якія загінулі ў Айч. вайну | 1972 |
| г. Ліда | На ўшанаванне памяці сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў ліп. 1944 пры вызваленні горада і раёна ад ням.-фаш. захопнікаў, і мірных жыхароў Ліды і раёна, што загінулі ў Айч. вайну | 1966 |
| Мастоўскі, в. Касілы | На ўшанаванне памяці 74 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1971 |
| в. Мілявічы | На ўшанаванне памяці 88 землякоў і 2 сав. воінаў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1969 |
| в. Пескі | На ўшанаванне памяці 20 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1967 |
| Свіслацкі, в. Дашкавічы | На ўшанаванне памяці 60 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1968 |
| Слонімскі, в. Вострава | На магіле 30 сав. воінаў і на ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1967 |
| в. Паўлава, урочышча Руда | На месцы прарыву блакады 10.6.1944 партызанамі атрада «Непераможны» Ленінскай партыз. брыгады | 1967 |
| **Магілёўская вобласць** | | |
| Бабруйскі, в. Сычкава | У гонар сав. воінаў 1-га Бел. фронту і партызан, якія ў чэрв. 1944 разграмілі бабруйскую групоўку ням.-фаш. войск і вызвалілі Бабруйскі р-н ад акупантаў | 1968 |
| Быхаўскі, в. Дабужа | У гонар партызан партыз. палка «Трынаццаць» | 1966 |
| в. Лудчыцы | На ўшанаванне памяці загінуўшых сав. воінаў, у гонар іх мужнасці і гераізму, воінскага братэрства ў Айч. вайну | 1984 |
| Кіраўскі, в. Барсукі | На ўшанаванне памяці 150 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1967 |
| г. п. Клічаў, за 1,5 км на ПнУ | У гонар партызан і сав. воінаў, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Клічаўскага р-на ад ням.-фаш. захопнікаў | 1967 |
| г. п. Краснаполле, за 5 км на ПнУ | На ўшанаванне памяці землякоў, якія аддалі жыццё ў барацьбе за свабоду і незалежнасць Радзімы ў грамадз. і Айч. войны | 1967 |
| Круглянскі, в. Бярозка | На магіле 47 аднавяскоўцаў, загубленых у чэрв. 1943 ням.-фаш. карнікамі | 1967 |
| в. Замошкі | На ўшанаванне памяці 70 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1973 |
| г. Крычаў | У гонар 50-годдзя БССР і на ўшанаванне памяці больш як 2 тыс. землякоў, якія загінулі ў барацьбе за ўстанаўленне Сав. улады, у грамадз. і Айч. войны | 1968 |
| Магілёўскі, в. Дубінка | На магіле 186 мірных жыхароў, спаленых 17.2.1943 ням.-фаш. карнікамі | 1966 |
| в. Палыкавічы | На ўшанаванне памяці мірных жыхароў, расстраляных у 1941—44 ням.-фаш. захопнікамі | 1968 |
| г. Мсціслаў | На ўшанаванне памяці 6407 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1968 |
| **Мінская вобласць** | | |
| Барысаўскі, в. Ніўкі | На ўшанаванне памяці 48 сав. воінаў і 43 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1969 |

ларамонтным з-дзе ў Растове-на-Доне.

**КУЧЫНСКІ БОЙ 1942**, бой партызан атрада 61-га (гл. *Партызанская брыгада 61-я*) супраць карнай экспедыцыі ням.-фаш. войск у Кучынскім лесе Быхаўскага р-на 9 жн.

Група партызан (15 чал.) пад камандаваннем Я. Ф. Каўшыркі 26.7.1942 разграміла Кучынскую валасную ўправу і спынілася ў лесе за 3 км на ПнЗ ад в. Кучын. Раніцай 9 жн. гітлераўцы (да 1500 карнікаў з танкеткамі і бронемашынамі) занялі вёскі Кучын, Алень, Заброддзе, Загацце, пас. Майдан і акружылі партызан. Партызаны занялі кругавую абарону і за 3 гадз няроўнага бою забілі і паранілі 136 карнікаў. У баі гераічна загінулі партызаны У. І. Валенда, Б. Васянін, М. С. Віхрыцкі, П. Жонін, Р. А. Зайцаў, У. А. Зайцаў, В. І. Зуеў, П. Кавалёў, В. Т. Кандрацьеў, І. В. Карпецкі, Каўшырка, В. П. Крайко, В. П. Краўцоў, М. А. Ляйбовіч, М. В. Палікарпаў, Х. Саітаў, М. Ушакоў. Партызаны С. Р. Гардзееў і П. І. Коблаў вырваліся з акружэння.

*А. І. Валахановіч.*

А. А. Куцак. М. І. Кучынскі.





**ЛАБАНОК** Уладзімір Елісеевіч (3.7.1907, в. Востраў Пухавіцкага р-на — 4.11.1984), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Віцебскай вобл., сав. дзярж. і парт. дзеяч, Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1930. Скончыў Бел. с.-г. акадэмію (1931), ВПШ пры ЦК КПСС (1956). З 1941 1-ы сакратар Лепельскага РК КП(б)Б. З жн. 1941 да чэрв. 1944 1-ы сакратар Лепельскага падп. РК КП(б)Б, адначасова з сак. 1942 камандзір партыз. атрада № 68, з жн. 1942 камісар *партызанскай брыгады Чашніцкай «Дубава»*, з ліп. 1943 камандзір *партызанскай брыгады Лепельскай імя І. В. Сталіна.* У снеж. 1943 узначаліў аператыўную групу ЦК КП(б)Б

| 1 | 2 | 3 |
|---|---|---|
| Клецкі, в. Машукі, урочышча Раскоп | На месцы бою 17.2.1943 партызан атрада «Сокалы» супраць ням.-фаш. захопнікаў | 1972 |
| Маладзечанскі, в. Мясата | На ўшанаванне памяці 136 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1967 |
| на месцы б. в. Сакаўшчына, за 3 км на Пн ад в. Загор-скае | На месцы в. Сакаўшчына, спаленай 11.11.1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1973 |
| Салігорскі, в. Акцябр | На ўшанаванне памяці 157 землякоў, сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Айч. вайну | 1972 |
| в. Вялікія Заўшыцы | На ўшанаванне памяці 3 партызан і 74 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1975 |
| в. Вялічкавічы | На ўшанаванне памяці 131 аднавяскоўца, спаленых 15.2.1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1963 |
| в. Доўгае | На ўшанаванне памяці 67 жыхароў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1967 |
| в. Капацэвічы | На магіле 426 аднавяскоўцаў, загубленых 16.2.1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1975 |
| в. Махнавічы | На ўшанаванне памяці 35 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1967 |
| в. Першамайск | На ўшанаванне памяці 120 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1975 |
| в. Саковічы | На ўшанаванне памяці 27 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1965 |
| на месцы б. в. Сухая Міля, за 1 км на ПдЗ ад в. Загор'е | На ўшанаванне памяці 28 жыхароў, спаленых разам з вёскай у ліп. 1942 ням.-фаш. захопнікамі | 1968 |
| в. Чаланец | На ўшанаванне памяці 149 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1968 |
| г. п. Чырвоная Слабада | На ўшанаванне памяці 225 землякоў, сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Айч. вайну | 1966 |
| в. Язавінь | На ўшанаванне памяці 29 землякоў, якія загінулі ў Айч. вайну | 1967 |
| Слуцкі, в. Заполле | На ўшанаванне памяці 425 жыхароў навакольных вёсак, якія загінулі ў Айч. вайну | 1977 |
| на месцы б. в. Пераходы, за 1,5 км на Пд ад в. Жылін Брод | На ўшанаванне памяці 116 жыхароў, знішчаных разам з вёскай 23.2.1943 ням.-фаш. захопнікамі | 1979 |
| Смалявіцкі, в. Слабада, 21-ы км шашы Мінск — Масква | Курган Славы Савецкай Арміі — вызваліцельніцы Беларусі | 1969 |
| Старадарожскі, в. Горкі | На ўшанаванне памяці 220 землякоў і 40 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Айч. вайну | 1967 |
| в. Сінягова | На ўшанаванне памяці 299 землякоў і сав. воінаў 121-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў Айч. вайну | 1967 |
| г. Чэрвень | У гонар сав. воінаў і партызан, якія ў ліп. 1944 вызвалілі горад і Чэрвеньскі р-н ад ням.-фаш. захопнікаў | 1967 |

і БШПР па *Полацка-Лепельскай партызанскай зоне.* У 1944—62 у апараце ЦК КПБ, старшыня Полацкага і Гомельскага аблвыканкомаў, 1-ы сакратар Палескага і Віцебскага абкомаў КПБ. З 1962 1-ы нам. Старшыні СМ БССР, міністр вытворчасці і нарыхтовак с.-г. прадуктаў БССР. З крас. 1974 нам. Старшыні Прэзідыума ВС БССР. Чл. Цэнтр. рэвізійнай камісіі КПСС у 1961—76. Чл. ЦК КПБ з 1949, канд. у чл. Бюро ЦК КПБ з 1962 і з 1976, чл. Бюро ЦК КПБ у 1966—76. Дэп. ВС СССР з 1946, нам. Старшыні Савета Нацыянальнасцей ВС СССР у 1968—74. Дэп. ВС БССР у 1951—55, з 1963. Аўтар кніг «У баях за Радзіму» (3 выд., 1964), «Партызаны прымаюць бой» (1976). Імя Л. прысвоена саўгасу-тэхнікуму ў г. Мар'іна Горка, Лепельскай сярэдняй школе № 1, вуліцам у Лепелі і Мінску.

**ЛАБЭЦКІЯ,** вёска на тэр. Браслаўскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на Пд ад в. Пагошча Опсаўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 42 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 34 жыхароў, вёску (6 двароў) спалілі, маёмасць разрабавалі і часткова знішчылі. Пасля вайны не адрадзілася. На месцы вёскі насыпаны курган, на якім устаноўлена мемар. пліта. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**ЛАВЯНЕ́ЦКІ** Сцяпан Аляксандравіч (26.10.1923, в. Філатава Круглянскага р-на —24.10.1944), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. ВЛКСМ. З жн. 1943 на 3-м і 4-м Укр., 1-м Бел., 2-м Укр. франтах: сяржант, механік-вадзіцель самаходнай арт. устаноўкі 1815-га Брэсцкага самаходна-арт. палка. Вызначыўся 24.10.1944 у баях за г. Надзькалла (Венгрыя). Умела манеўруючы, дапамог падбіць 3 танкі. Цяжка паранены Л. працягваў бой, загінуў у ім. Пахаваны ў Венгрыі. Яго імем названы вуліцы ў г. Таліца Свярдлоўскай вобл., у г. Волагда, на радзіме пастаўлены помнік.

У. Е. Лабанок. С. А. Лавянецкі.



**ЛА́ГЕРЫ СМЕ́РЦІ** нямецка-фашысцкія. Ствараліся гітлераўцамі на часова акупіраванай тэр. СССР для масавага знішчэння сав. грамадзян, задушэння іх супраціўлення, выкарыстання іх для прымусовай працы. Былі арганічнай часткай *акупацыйнага рэжыму,* палітыкі *генацыду.* Уяўлялі сабой складаную сістэму, у стварэнні якой прымалі ўдзел усе акупацыйныя сілы.

Па афіцыйным прызначэнні падзяляліся на Л. с. для ваеннапалонных (дулагі, шталагі, афлагі), для цывільнага насельніцтва (жаночыя, працоўныя лагеры СД, перасыльныя лагеры СС, штрафныя, *гета*) і інш. У большасці выпадкаў гэта была адкрытая прастора, агароджаная калючым дротам, з прыстасаванымі ці наспех абсталяванымі памяшканнямі барачнага тыпу, часта проста земляныя норы або акопы. Ахову лагераў і знішчэнне вязняў праводзілі падраздзяленні вермахта, СД і СС. У Л. с. праводзілася ўдасканаленае знішчэнне зняволеных голадам, катаржнай працай, збіваннем, цкаваннем сабакамі, катаваннямі, віселнямі, расстрэламі, спальваннем, закопваннем жывых людзей, падрывам гранатамі, злачыннымі эксперыментамі ўрачоў-садыстаў і г. д.

На тэр. акупіраванай Беларусі было больш за 260 Л. с., іх філіялаў і аддзяленняў. Адзін з першых Л. с. створаны па распараджэнню камандуючага 4-й палявой арміяй ген.-фельдмаршала Клюге ў в. Дразды каля Мінска, дзе ўтрымліваліся ваеннапалонныя і цывільныя асобы ва ўзросце ад 15 да 60 гадоў. У «Справаздачы аб лагеры ваеннапалонных у Мінску» гітлераўскі чыноўнік паведамляў рэйхсляйтэру Розенбергу, што «адзіна даступным сродкам недастатковай аховы, якая дзень і ноч стаіць на варце, з'яўляецца агнястрэльная

зброя, якую яна бязлітасна ўжывае». У *Трасцянецкім лагеры смерці* каля Мінска былі загублены 206 500 чал., гэта трэці Л. с. па колькасці ахвяр (пасля Асвенціма і Майданака). Адным з буйнейшых гарадскіх Л. с. было мінскае гета, створанае па загаду начальніка 812-й палявой камендатуры 19.7.1941. У ім было загублена каля 100 тыс. чал. Жудаснымі па сваёй жорсткасці былі Л. с., створаныя гітлераўцамі ў прыфрантавой палосе. Напярэдадні наступлення Чырв. Арміі за калючы дрот і мінныя загараджэнні фашысты сагналі непрацаздольных людзей і размясцілі сярод іх інфекцыйных хворых у разліку на хуткае і масавае распаўсюджванне цяжкіх захворванняў сярод насельніцтва і сав. вайсковых часцей. 3 такія лагеры былі створаны па загаду камандуючага 9-й арміяй каля вёсак Дзерць, Азарычы і Падасіннік. З 42 тыс. вязняў гэтых лагераў сав. воіны выратавалі 33 480 чал., у т. л. 15 960 дзяцей да 13 гадоў, астатніх




Схема лагера смерці ў пас. Дразды каля Мінска.

гітлераўцы паспелі знішчыць (гл. *Азарыцкія лагеры смерці*). Бясспрыкладныя па сваім садызме былі Л. с., у якіх гітлераўскія захопнікі абяскроўлівалі дзяцей і падлеткаў. Толькі ў в. Скобраўка Пухавіцкага р-на загінулі 1500 дзяцей-донараў. Л. с. на тэр. Беларусі выкарыстоўваліся таксама гітлераўцамі для знішчэння грамадзян з краін Зах. Еўропы, акупіраваных фаш. Германіяй (гл. *Урочышча Гай*).

На няпоўных даных у Л. с. на тэр. Беларусі нацысты загубілі больш за 1400 тыс. сав. грамадзян, у т. л. ў Бабруйску (4 лагеры, 8 аддзяленняў і філіялаў) больш за 44 тыс. чал., Барысаве (6 Л. с.) больш за 33 тыс. чал., Баранавічах (2 лагеры) 31 тыс. чал., Брэсце (4 лагеры, 8 аддзяленняў і філіялаў) 34 тыс. чал., Віцебску (5 лагераў, 6 аддзяленняў і філіялаў) каля 150 тыс. чал., Ваўкавыску 20 тыс. чал., Глыбокім (3 лагеры) больш за 37 тыс. чал., Гомелі (5 лагераў, 6 аддзяленняў) больш за 100 тыс. чал., Гродне (5 лагераў, 4 аддзяленні) больш за 30 тыс. чал., Дамачове каля 20 тыс. чал., Крычаве (3 лагеры) каля 24 тыс. чал., Лідзе (3 лагеры) больш за 17 тыс. чал., Лунінцы больш за 16 тыс. чал., Мінску (у горадзе і наваколлі 9 Л. с. з філіяламі і аддзяленнямі) каля 400 тыс. чал., Магілёве (5 лагераў) 70 тыс. чал., Маладзечне (3 лагеры, 13 аддзяленняў) больш за 33 тыс. чал., Навагрудку больш за 28 тыс. чал., Оршы 19 тыс. чал., Пінску (4 лагеры) каля 60 тыс. чал., Полацку (3 лагеры) каля 150 тыс. чал., Слуцку (3 лагеры) каля 20 тыс. чал. (гл. таксама *Бабруйскі лагер смерці, Беразвецкі лагер смерці, Бронная Гара, Калбасінскі лагер смерці, Калдычэўскі лагер смерці, Лупалаўскі лагер смерці, Ляснянскі лагер смерці, Маладзечанскі лагер смерці, Масюкоўшчынскі лагер смерці*).

Адступаючы з Беларусі пад націскам сав. войск, гітлераўцы ў 1944 правялі паўсюдную масавую акцыю знішчэння ўсіх, хто яшчэ ўтрымліваўся ў Л. с., і паспрабавалі замесці сляды жорсткіх злачынстваў, спальваючы астанкі сваіх ахвяр і маскіруючы равы. Шматлікімі дакументамі, матэрыяламі, паказаннямі сведкаў гітлераўцы поўнасцю выкрыты ў сваіх крывавых злачынствах (гл. *Надзвычайная дзяржаўная камісія* па выяўленню і расследаванню злачынстваў ням.-фаш. захопнікаў). Аднак да гэтага часу шмат хто з фаш. злачынцаў, непасрэдных арганізатараў і ўдзельнікаў знішчэння сав. грамадзян у Л. с., знаходзяцца ў ЗША, Канадзе, ФРГ, Аўстраліі і некаторых лацінаамерыканскіх дзяржавах. У памяць аб загінуўшых у Л. с. пастаўлены помнікі, мемарыял загінуўшым у Л. с. на тэр. Беларусі збудаваны ў *Хатыні*.

*У. С. Пасэ.*

**ЛАГІШЫН,** гар. пасёлак у Пінскім р-не. За 28 км на Пн ад Пінска, на аўтадарозе Пінск — Івацэвічы. У 1940—62 цэнтр Лагішынскага р-на. Акупіраваны 27.6.1941 ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў Л. і раёне 1952 чал. У раёне дзейнічалі Лагішынскія падп. райкомы КП(б)Б (16.7.1943—10.7.1944) і ЛКСМБ (1.5.1943—10.7.1944), партыз. брыгады 99-я імя Дз. Ц. Гуляева, імя Куйбышава, імя Молатава (гл. адпаведныя артыкулы). Пры набліжэнні часцей Чырв. Арміі 2 батальёны *партызанскага палка 208-га*

*імя І. В. Сталіна* ў ноч на 9.7.1944 патакавалі ням.-фаш. гарнізон з мэтай вызвалення Л. У жорсткім баі некальскі груп партызан прарваліся да цэнтра пасёлка. На дапамогу гітлераўцам раніцай прыбыло падмацаванне з Пінска, і партызаны вымушаны былі адыйсці. Вызвалены 15.7.1944 у ходзе наступлення на баранавіцка-брэсцкім напрамку часцямі 55-й гвардз. стралк. дывізіі (ген.-маёр А. П. Турчынскі) 89-га стралк. корпуса 61-й арміі 1-га Бел. фронту разам з партызанамі 208-га партыз. палка імя Сталіна (камандзір Я. М. Бяспояcaў). У Л. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, на ёй пастаўлены помнік.

*У. М. Якубоўскі.*

**ЛАГО́ЙСК,** гар. пасёлак, цэнтр Лагойскага р-на, на р. Гайна за 40 км ад Мінска, 31 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск — Орша, аўтадарогамі звязаны з Мінскам, Смалявічамі, Бягомлем, Вілейкай. 3400 жыхароў у 1939. У час Айч. вайны баі з фаш. захопнікамі пад Л. пачаліся 28.6.1941. Больш за суткі абараняў пасёлак 288-ы стралк. полк. 2.7.1941 Л. акупіраваны ням. фашыстамі, якія за час акупацыі знішчылі ў Л. і раёне 3906 чал. У Л. і раёне дзейнічалі Лагойскія падп. райкомы КП(б)Б (ліст. 1942—30. 6.1944) і ЛКСМБ (30.11.1942—3.7. 1944), партыз. брыгады «Жалязняк», 1-я Антыфашысцкая, «Дзядзькі Колі», імя Фрунзе, Лагойская «Бальшавік», «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага, «Смерць фашызму» і «Штурмавая», асобны партыз. атрад «Мясцовыя» (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«За Савецкую Беларусь»*. У ноч на 23.12.1942 партызаны брыгады «Штурмавая» правялі аперацыю па разгрому ў Л. ням.-фаш. гарнізона (гл. *Лагойскі бой 1942*). Вызвалены 2.7.1944 воінамі 11-й гвардз. стралк. дывізіі (ген.-маёр М. Г. Цыганаў) 16-га гвардз. стралк. корпуса 11-й гвардз. арміі 3-га Бел. фронту ў выніку *Мінскай аперацыі 1944* і партызанамі Лагойскай партыз. брыгады «Бальшавік» (камандзір Л. Л. Марозаў). У Л. брацкія могілкі сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму, на іх устаноўлены помнікі; помнік партызанцы Н. Я. Харчанка; мемар. дошкі ў гонар вызвалення Л. і ў гонар партыз. брыгады «Штурмавая».

*М. І. Камінскі.*

**ЛАГО́ЙСКІ БОЙ 1942,** бой *партызанскай брыгады «Штурмавая»* супраць ням.-фаш. захопнікаў у г. п. Лагойск 22—23.12.1942.

Напярэдадні аперацыі па разгрому гарнізона ў Лагойску (каля 240 гітлераўцаў) падпольшчыкі пасёлка перадалі партызанам дакладныя даныя аб сілах праціўніка, размяшчэнні яго агнявых кропак, пастоў аховы, склалі схему ўмацаванняў ворага.

Партызаны (каля 300 чал.) у адпаведнасці з планам, які распрацавала камандаванне брыгады, у 10 гадз вечара 22.12.1942 дзвюма калонамі пачалі наступленне на гарнізон. Упартае супраціўленне аказалі гітлераўцы, якія заселі ў будынку камендатуры. Бой працягваўся больш за 3 гадзіны. У вырашальны момант бою Н. Я. Харчанка замяніла забітага кулямётчыка, што садзейнічала поспеху аперацыі. Партызаны разграмілі памяшканні паліцэйскай управы, жандармерыі і камендатуры, спалілі склады з харчаваннем і фуражом, захапілі вял. трафеі, знішчылі і паранілі больш за 160 гітлераўцаў. У баі загінулі 3 партызаны. У Лагойску ў гонар партызан у 1970 пастаўлена мемар. дошка.

*М. Ф. Шумейка.*

**ЛАДУ́ЦЬКА** Іван Іванавіч (н. 28.10. 1916, в. Стары Пруд Чэрвеньскага р-на), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1941. У Чырв. Арміі з 1936. Скончыў Кіеўскае ваен. пях. вучылішча (1938), Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1951), Вышэйшыя акадэмічныя курсы пры Ваен. акадэміі Генштаба (1958). З 1942 на Паўд.-Зах., Сталінградскім, Бранскім, Цэнтр., 1-м Бел. франтах. Камандзір стралк. батальёна маёр Л. вызначыўся пры вызваленні Польшчы. 14.1.1945 на левым беразе Віслы падняў у атаку 2 роты, якія пераадолелі траншэі ворага і ўклініліся ў яго абарону; 15.1.1945 батальён Л. захапіў 12 аўтамашын, 13 кулямётаў; 30.1.1945 першы выйшаў на польска-германскую граніцу. Да 1972 у Сав. Арміі, палкоўнік.

**ЛАДЭ́ЛЕВА,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1,5 км на Пд ад в. Гісялёва Сенькаўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 95 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»*, фашысты загубілі 48 жыхароў, вёску (22 двары) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1975 на месцы вёскі насыпаны курган, на яго вяршыні пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ЛА́ЗАРАЎ** Віктар Васілевіч (сапр. Рачын Васіль Маркавіч; 6.5.1902, с. Старшае Хамутоўскага р-на Курскай вобл.— 7.5.1963), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1926. З 1924 у Чырв. Арміі. У партызанах з ліп. 1942: радавы, упаўнаважаны асобага аддзела атрада, камандзір роты, у маі 1943 — ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады 130-й «Помста»*. Пасля вайны ў Сав. Арміі.

**ЛА́ЗАРАЎ БОР,** вёска на тэр. Слуцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася ў Амговіцкім сельсавеце. Перад вайной у ёй жыло 32 чал. 26.1.1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 29 жыхароў, у т. л. 11 дзяцей, вёску (8 двароў) спалілі, маёмасць разрабавалі. Пасля вайны не адрадзілася. На месцы вёскі магіла ахвяр фашызму. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь*.

**ЛАЗАРЭ́НКА** Іван Сідаравіч (8.10. 1895, пас. Валаконаўка Белгародскай вобл.— 25.6.1944), ген.-маёр (1940), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1921. У Чырв. гвардыі з 1917, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз., сав.-фінл. 1939—40 войнаў.



І. І. Ладуцька. І. С. Лазарэнка.

З 1941 на Зах., Бранскім, 2-м Бел. франтах. Камандзір стралк. дывізіі Л. вызначыўся ў час прарыву абароны праціўніка ў Магілёўскай вобл. Дывізія 23—25.6.1944 фарсіравала рэкі Проня і Бася, прайшла наперад на 25 км. 25.6.1944 адбіла контратакі каля в. Золмы Чавускага р-на. Асабіста Л. з гарматы падбіў некалькі варожых танкаў. Загінуў у гэтым баі. Пахаваны ў Магілёве. Яго імем названы плошча ў Крычаве, вуліца і сквер у Магілёве, у скверы на магіле пастаўлены помнік.

**ЛАЗЕ́БНІКАЎ** Мікалай Селівёрставіч (н. 22.7.1914, Магілёў), ген.-лейт. (1967). Чл. КПСС з 1939. Скончыў ваен. акадэміі імя Фрунзе (1948), Генштаба (1956). У Чырв. Арміі з 1935. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. У гады Айч. вайны на Карэльскім, Цэнтр., 1-м Бел. франтах: камандзір роты, батальёна, нач. штаба, камандзір палка. Удзельнік абароны Сав. Запаляр'я, вызвалення Гомельскай вобл., Польшчы, штурму Берліна. Да 1975 на адказных пасадах у Сав. Арміі.

**ЛАМАВІ́ЦКІ БОЙ 1942,** бой партызан злучэння Мінскай і Палескай абл. (гл. ў арт. *Мінскае партызанскае злучэнне)* супраць ням.-фаш. захопнікаў у в. Ламавічы Акцябрскага р-на 25.11. 1942.

План аперацыі па разгрому вял. апорнага пункта ворага ў в. Ламавічы, вакол якога былі ўзведзены дзоты і адкуль праціўнік рабіў пастаянныя вылазкі супраць партызан, распрацаваў штаб партыз. злучэння Мінскай і Палескай абл.

Атрады М. П. *Бумажкова* (пазней атрад імя А. В. Суворава *партызанскай брыгады 225-й)* і «Чырвоны

Кастрычнік» (пазней у *партызанскай брыгадзе 123-й Акцябрскай імя 25-годдзя БССР)* арганізавалі засады на дарогах, якія звязвалі в. Ламавічы з вёскамі Граб'ё, Жукавічы, Мушычы, Хойна, каб не дапусціць падыходу варожых падмацаванняў. Атрады А. І. *Далідовіча* (пазней атрад імя Я. Дз. Гуляева *партызанскай брыгады 25-й імя П. К. Панамарэнкі),* М. М. Розава (пазней атрад імя М. М. Громава *партызанскай брыгады 64-й імя В. П. Чкалава),* Дз. Ц. *Гуляева* (пазней атрад імя Дз. Ц. Гуляева *партызанскай брыгады 101-й імя Аляксадра Неўскага),* імя М. Ф. Гастэлы (пазней у *партызанскай брыгадзе 121-й імя А. Ф. Брагіна),* узброеныя 3 гарматамі, штурмам авалодалі в. Ламавічы. У ходзе бою былі падаўлены 12 дзотаў, знішчана каля 50 гітлераўцаў. У гэтым баі, ратуючы параненага камандзіра, смяротна паранена сувязная-інструктар ЦК ЛКСМБ Р. І. *Шаршнёва.* *Р. А. Чарнаглазава.*


В. Ф. Ландычэнка. А. І. Лапацін.

**ЛАНДЫЧЭНКА** Віктар Фёдаравіч (12.2. 1922, в. Міхайлова Лёзненскага р-на —31.3.1980), поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПСС з 1953. Скончыў Ташкенцкае пях. вучылішча (1943). З 1943 на Варонежскім, Зах., Бранскім, 1-м Прыбалт. франтах. Удзельнік Курскай бітвы, вызвалення Віцебскай вобл. Камандзір аддзялення разведроты сяржант Л. вызначыўся ў баях на тэр. Літвы і Латвіі. 11.8.1944 першы фарсіраваў р. Мемеле і знішчыў 2 агнявыя кропкі ворага; 18.9.1944 з групай разведчыкаў разграміў апорны пункт гітлераўцаў; у кастр. 1944 вызначыўся ў час прарыву абароны праціўніка. Да 1966 працаваў у органах МУС, потым на заводзе.

**ЛАПАКОВА,** вёска на тэр. Гарадоцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на ПдЗ ад в. Стырыкі Канашынскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 12 чал. У сак. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 12 жыхароў, вёску (5 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**ЛАПАЦІН** Антон Іванавіч (18.1.1897, в. Каменная, Брэсцкі р-н —9.4.1965), ген.-лейт. (1942), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1919. У Арміі з 1916, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў курсы ўдасканалення камсаставу (1925, 1927). Узнаг. ордэнам Чырв. Сцяга. З 1941 на Паўд.-Зах., Сталінградскім, Паўн.-Зах., Калінінскім, 1-м Прыбалт., 3-м Бел. франтах: камандзір стралк. корпуса, нам. камандуючага, камандуючы арміямі. Войскі пад яго камандаваннем удзельнічалі ў вызваленні Беларусі, Прыбалтыкі, Усх. Прускай аперацыі. У перыяд *Беларускай аперацыі 1944* нам. камандуючага 43-й арміяй, узначальваў войскі на левым флангу арміі пры акружэнні віцебскай групоўкі праціўніка і вызваленні Віцебска (гл. *Віцебскі «кацёл»*). Вызначыўся пры ліквідацыі кёнігсбергскай групоўкі праціўніка і авалоданні Кёнігсбергам. Удзельнік вайны з імперыялістычнай Японіяй на Далёкім Усходзе. Да 1954 у Сав. Арміі.

**ЛАПАЦІН** Пётр Рыгоравіч (5.1.1907, в. Ізлягошча Усманскага р-на Ліпецкай вобл.—9.7.1974), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай і Віцебскай абл., Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1947. З 1936 працаваў на чыг. ст. Мінск. З 1941 камандзір аддзялення, узвода партыз. атрада спец. прызначэння «Міця», які дзейнічаў на чале з Дз. М. Мядзведзевым на тэр. Магілёўскай, Смаленскай і Арлоўскай абл. З сак. 1942 кіраўнік партыз. спец. разведвальна-дыверсійнай групы НКДБ СССР «Бывалыя», з жн. 1942 камандзір *партызанскай брыгады «Дзядзькі Колі».* З 1944 нам. старшыні Барысаўскага гарвыканкома, райвыканкома, на гасп. рабоце. У Барысаўскім р-не яго імем названа Ганцавіцкая сярэдняя школа, у Барысаве — вуліца.

**ЛАПЕНКА** Варфаламей Якаўлевіч (1902, в. Малое Сітна Полацкага р-на —6.10.1942), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1927. Скончыў Вышэйшую камуніст. с.-г. школу Беларусі (1934). З 1927 на адм. і сав. рабоце, сакратар Расонскага РК КП(б)Б. У ліп.— снеж. 1941 і маі — кастр. 1942 сакратар Расонскага падп. РК КП(б)Б, адначасова з мая 1942 камісар штаба групы атрадаў Расонскага р-на, у ліп.— кастр. 1942 камісар *партызанскай брыгады Расонскай імя І. В. Сталіна.* Загінуў у авіякатастрофе. У г. п. Расоны яго імем названа вуліца.

**ЛАПСКІ ПАДПОЛЬНЫ МІЖРАЙКОМ КП(б)Б.** Дзейнічаў з 23.10.1943 да 1.8. 1944 пад кіраўніцтвам *Беластоцкага падпольнага абкома КП(б)Б.* Створаны як Лапскі падп. РК КП(б)Б. З прычыны таго, што яго дзейнасць распаўсюджвалася і на тэр. Бельскага і Браньскага р-наў Беластоцкай вобл., адразу стаў працаваць як міжрайком. Узначальваў парт. арг-цыі партыз. фарміраванняў, накіроўваў дзейнасць падп. Лапскага, Замброўскага, а таксама створанага ім Бельскага райкомаў ЛКСМБ. Сакратар міжрайкома В. В. *Кундовіч,* члены: І. П. Кныш, М. Р. *Янкоўскі.* Базіраваўся ў *партызанскай брыгадзе «У імя Радзімы».* Друкаваны орган — газ. *«Знамя Победы».* *М. І. Эпалетаў.*

**ЛАПЯНКОЎ** Іван Адамавіч (15.1.1912, в. Яськаўшчына Шклоўскага р-на — 6.12.1972), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1939. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. З 1941 на Зах., Калінінскім, Варонежскім, 1-м Укр., 1-м Бел. франтах. Нам. камандзіра мотастралк. батальёна ст. лейтэнант Л. вызначыўся пры фарсіраванні Віслы на Пн ад г. Баранаў-Сандамерскі (Польшча). 30.7.1944 з групай аўтаматчыкаў разведаў месца для фарсіравання, знішчыў каля 40 гітлераўцаў, захапіў 2 лодкі, пераправіўся цераз раку і замацаваўся на левым беразе. 6 гадзін група адбівала контратакі, стварыўшы ўмовы батальёну і брыгадзе для фарсіравання ракі. Пасля вайны жыў і працаваў у г. Ачынск; яго імем названа вуліца горада, на доме, дзе жыў Л., мемар. дошка.

**ЛАСКУНОЎ** Мікалай Аляксеевіч (4.5. 1911, в. Станіслававa Шумілінскага р-на —11.8.1945), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1931. У Чырв. Арміі з 1930. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1941). З 1945 на 2-м Далёкаўсходнім фронце: нам. нач. аддзела штаба арміі, падпалкоўнік. Вызначыўся 11.8.1945. Вылецеў самалётам з баявым заданнем ваен. савета арміі ў злучэнне, якое вяло бой за г. Фуцзінь (Кітай). Пры пасадцы самалёт быў падбіты, цяжка паранены Л. уручыў загад па прызначэнню, чым забяспечыў рашэнне задачы па авалоданню Фуцзіньскім вузлом супраціўлення японскіх войск. Памёр ад ран. Пахаваны ў г. Фуцзінь.

**ЛАСЮКОЎ** Прохар Аляксеевіч (10.8. 1902), в. Ахімкавічы Круглянскага р-на —12.6.1970), ген.-палк. інжынерна-тэхн. службы (1958). Чл. КПСС з 1927. У Чырв. Арміі з 1920. Скончыў Ваен.-паветр. акадэмію (1932). З 1932 на адказных інж. пасадах у ВПС. Працаваў над стварэннем і ўдасканаленнем авіяц. тэхнікі. З 1941 гал. інжынер ВПС Бранскага фронту, нам. гал. інжынера ВПС. З 1952 нам. галоўнакамандуючага ВПС, нам. начальніка ваенна-паветр. інж. акадэміі.

**ЛАТЫГАВА,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 0,5 км на Пд ад в. Страдна Чапаеўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 66 чал. У сак. 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»,* фашысты загубілі 44 жыхароў, вёску (11 двароў) спалілі. Пас-



П. Р. Лапацін. І. А. Лапянкоў. М. А. Ласкуноў. У. Дз. Лаўрыненкаў. У. С. Лаўрыновіч. Э. В. Лаўрыновіч.

ля вайны не адрадзілася. У 1975 на месцы вёскі насыпаны курган, на яго вяршыні пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**ЛАТЫ́ГАЛЬСКІ БОЙ 1943,** бой паміж 2-м батальёнам *партызанскага палка Смаленскага* і ням.-фаш. захопнікамі ў в. Латыгаль Сенненскага р-на 25.4.1943.

Жорсткія баі з намнога большымі сіламі карнікаў 19—20.4.1943 вымусілі Смаленскі партыз. полк перадыслацыравацца на новую базу. На намечаным маршруце знаходзіўся гарнізон праціўніка ў в. Латыгаль (за 7 км на ПдЗ ад г. Сянно), знішчыць які было даручана 2-му батальёну палка (камандзір І. М. Барысаў).

Батальён зрабіў 11-кіламетровы марш і да 2 гадз ночы 25.4.1943 выйшаў на зыходныя пазіцыі каля в. Латыгаль, адным узводам перакрыў дарогу, якая злучала гарнізон з г. Сянно, а астатнімі сіламі атакаваў з У уздоўж вёскі і з Пн у фланг гітлераўцам. Бой, які цягнуўся каля 3 гадз, з першых жа хвілін набыў ачаговы характар. Дзоты праціўніка былі падаўлены гранатамі. Варожае падмацаванне, якое ішло з г. Сянно, было сустрэта агнём партыз. засады. Вораг страціў у гэтым баі забітымі і параненымі 35 гітлераўцаў, 6 паліцэйскіх было ўзята ў палон. Партызаны захапілі 6 ручных кулямётаў, 10 вінтовак, спалілі склады з боепрыпасамі і амуніцыяй. У выніку бою ў сістэме ням.-фаш. гарнізонаў в. Латыгаль — г. Сянно — д. Старая Беліца стварылася брэш, дзякуючы якой дыверсійныя групы партызан атрымалі магчымасць найкарацейшым шляхам выходзіць да чыгункі Орша — Віцебск. У гэтым баі партызаны страцілі 2 чалавек забітымі і 2 параненымі.
*У. С. Пасэ.*

**ЛАЎРЫНЕ́НКАЎ** Уладзімір Дзмітрыевіч (н. 17.5.1919, в. Птахіна Пачынкаўскага р-на Смаленскай вобл.), двойчы Герой Сав. Саюза (1943, 1944), ген.-палк. авіяцыі (1971). Чл. КПСС з 1942. Скончыў Чугуеўскае ваен. авіяц. вучылішча (1941), ваен. акадэміі імя Фрунзе (1948), Генштаба (1954). З ліп. 1942 на Зах., Варонежскім, Сталінградскім, Паўд., 3-м і 1-м Бел. франтах: камандзір звяна, эскадрыллі знішчальнага авіяпалка. Удзельнік вызвалення Беларусі. Зрабіў 448 баявых вылетаў, удзельнічаў у 134 паветр. баях, збіў 35 самалётаў, 11 у групавых баях. Пасля вайны ў Сав. Арміі. Чл. ЦК КПБ у 1966—71. Дэп. ВС БССР у 1967—71. Аўтар кніг: «Вяртанне ў неба» (1974), «Сокал-1» (1976), «Без вайны» (1982) і інш.

**ЛАЎРЫНО́ВІЧ** Уладзімір Сцяпанавіч (1913, в. Порса Вілейскага р-на —31. 1.1945), Герой Сав. Саюза (1945). З 1944 на 2-м і 1-м Бел. франтах: сяржант, кулямётчык. Вызначыўся ў час ліквідацыі варожай групоўкі ва Усх. Прусіі. 31.1.1945 Л. адбіваў атаку больш за 100 гітлераўцаў, падтрыманых танкамі і 2 самаходнымі гарматамі. Агнём з кулямёта знішчыў больш за 50 гітлераўцаў, потым з гранатамі кінуўся пад танк і падарваў яго. Контратака была адбіта. Навечна занесены ў спісы палка, у якім ваяваў. У в. Порса, на доме, дзе жыў Л., мемар. дошка; яго імем названа вуліца ў Вілейцы.

**ЛАЎРЫНО́ВІЧ** Эдуард Віктаравіч (27. 10.1909, в. Кулакова Верхнядзвінскага р-на —12.3.1982), удзельнік партыз. руху ў Гомельскай вобл., Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1932. З 1933 на парт. рабоце ў Краснадарскім краі. З 1938 старшыня калгасаў у Буда-Кашалёўскім р-не. З жн. 1941 у тыле ворага: камандзір дыверсійнай групы, узвода партыз. атрада імя Калініна *партызанскай брыгады 1-й Гомельскай.* Званне Героя Сав. Саюза прысвоена за ўзорнае выкананне ўрадавых заданняў, праяўленыя мужнасць і гераізм. У 1943—71 на сав. і адм. рабоце. Аўтар кн. «Вогненныя рэйкі» (2 выд., 1974). Яго імем названа вуліца ў г. Буда-Кашалёва.

**ЛА́ЎСКІ БОЙ 1942,** бой *партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава* Мінскай вобл. супраць карнай экспедыцыі ням.-фаш. захопнікаў 3.12. 1942 каля Лаўскага лесу ў Капыльскім р-не.

Супраць 7 атрадаў брыгады гітлераўцы кінулі больш за 7 тыс. карнікаў з танкамі, бронемашынамі, артылерыяй. Першай ворага сустрэла засада партызан каля в. Клецішча на чале з камандзірам узвода В. І. *Драздовічам.*

Заняўшы зручную пазіцыю на вясковых могілках, 18 партызан за 4 гадз адбілі 8 атак ворага, знішчылі 85 карнікаў. Самі ўсе загінулі ў баі: В. М. Астрэйка, М. І. Дзесюкевіч, Драздовіч, А. В. Ждановіч, А. А. Кароль, У. Ю. Качаноўскі, Ф. А. Клімовіч, П. І. Лыч, Р. П. Нікановіч, Э. А. Петрашэўскі, М. А. Сіневіч, І. П. Туміловіч, А. П. Харытановіч, Дз. К. Цітко, М. Т. Цартычны, К. В. Шытыка, М. В. Якімовіч, А. П. Ясючэня. За гэты час брыгада эвакуіравала шпіталь, разгарнула сілы і арганізавана пачала бой, які працягваўся ўвесь дзень. Уначы яна выйшла з акружэння.

На месцы Л. б. знойдзены кулямёт, у ствале яго запіска: «Паміраем за Радзіму... Просім нас лічыць камсамольцамі!». Драздовічу пасмяротна прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Каля в. Клецішча пастаўлены помнік на магіле 18 партызан, якія тут загінулі.
*П. П. Ліпіла.*

**ЛАШУ́К** Севасцьян Іванавіч (25.7. 1905, в. Лаўля, Смалявіцкі р-н — 24.7.1967), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1929. З 1930 у войсках НКУС. У партызанах з ліп. 1942: радавы, палітрук, у снеж. 1942— чэрв. 1943 камісар *партызанскай брыгады «Разгром»,* з чэрв. 1943 нам. камандзіра брыгады. З крас. 1944 у БШПР. З 1945 на гасп. рабоце ў Мінску.

**ЛА́ШЧАНКА** Пётр Мікалаевіч (н. 19. 12.1910, с. Тур'я Шчорскага р-на Чарнігаўскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1943), ген. арміі (1968). Чл. КПСС з 1931. У Чырв. Арміі з 1930. Скончыў ваен. акадэміі імя Фрунзе (1940), Генштаба (1951). У Айч. вайну з 1941 на Паўд., Зах., Варонежскім, Цэнтр. і 1-м Укр. франтах у штабах корпуса і арміі, камандзір стралк. дывізіі. Удзельнік Курскай бітвы, Чарнігаўскай, Кіеўскай, Жытомірска-Бярдзічаўскай наступальных аперацый. Вызначыўся пры вызваленні Брагінскага р-на. 22—23.9.1943 дывізія пад камандаваннем Л. фарсіравала Дняпро каля в. Верхнія Жары і зама-

цавалася на плацдарме. Пасля вайны нач. ваен. вучылішчаў, камандзір дывізіі, корпуса, камандуючы арміяй, 1-ы нам. і камандуючы войскамі. З 1968 1-ы нам. галоўнакамандуючага Сухапутнымі войскамі. З чэрв. 1976 ваен. інспектар-саветнік Групы ген. інспектароў Міністэрства абароны СССР. Чл. Цэнтр. рэвізійнай камісіі КПСС у 1966—71. Дэп. ВС СССР у 1966—79. Аўтар кніг «Стыль работы камандзіра» (1969), «З бою — у бой» (1972), «Афіцэрскае юнацтва» (2 выд., 1975).

П. М. Лашчанка. І. С. Леановіч.



**ЛЕАНО́ВІЧ** Іван Сямёнавіч (3.7.1920, в. Слабодка Дзяржынскага р-на Мінскай вобл.— 12.11.1946), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1944. Скончыў Мінскі аэраклуб (1938), Харкаўскую ваен. авіяц. школу (1939), Краснадарскую ваен. авіяц. школу пілотаў (1940). З 1942 на Ленінградскім, Волхаўскім, Карэльскім франтах: пілот, камандзір звяна, нам. камандзіра і адначасова штурман эскадрыллі знішчальнага авіяпалка. Ст. лейтэнант Л. зрабіў 340 баявых вылетаў, удзельнічаў у 51 паветр. баі, збіў 28 самалётаў праціўніка. Загінуў у аўтакатастрофе.

**ЛЕАНО́ВІЧ** Максім Пракопавіч (1897, в. Выгада Кобрынскага р-на —30.10. 1968), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Брэсцкай вобл. Чл. КПСС з 1925. Скончыў Камуніст. ун-т Беларусі імя Леніна (1932). З 1917 у арміі, Чырв. гвардыі, з 1918 у Чырв. Арміі. З 1921 на гасп., сав і парт. рабоце. З 1940 дырэктар саўгаса ў Брэсцкай вобл. У 1941—42 на гасп. рабоце ў Варонежскай вобл. З жн. 1943 у варожым тыле, кіраўнік спец. групы ў Брэсцкай вобл. У кастр. 1943— студз. 1944 упаўнаважаны ЦК КП(б)Б і БШПР па Кобрынскім р-не, у студз.— ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады імя В. І. Чапаева*, адначасова ў снеж. 1943— ліп. 1944 сакратар Кобрынскага падп. РК КП(б)Б. У 1945—57 на гасп. рабоце ў Брэсце.

**ЛЕАШЭ́НЯ** Яўген Варфаламеевіч (23. 12.1900, пас. Альбярцін Слонімскага р-на —6.12.1981), ген.-лейт. інж. войск (1955). Канд. ваен. навук (1943), дацэнт (1944). Чл. КПСС з 1923. У Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1934). У 1935—41 на выкладчыцкай рабоце ў Ваен. акадэміі імя Фрунзе. У Айч. вайну нач. інж. службы і штаба аператыўнай групы інж. загарод Зах. і Крымскага франтоў, кафедры Ваен. акадэміі, штаба інж. войск 1-га Бел. і Забайкальскага франтоў. Удзельнік абароны Масквы, Севастопаля, Вісла-Одэрскай, Усх.-Памеранскай, Берлінскай і Хінгана-Мукдэнскай аперацый. Пасля вайны да 1959 на выкладчыцкай рабоце ў ваен. акадэміях.

**ЛЕВАНКО́Ў** Іван Барысавіч (30.9.1914, в. Старышоўка Манастыршчынскага р-на Смаленскай вобл.— 12.12.1958), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай і Баранавіцкай абл. Чл. КПСС з 1943. З 1939 у Чырв. Арміі. У партызанах з снеж. 1942: радавы, палітрук роты, у ліст. 1943— ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады імя М. А. Шчорса.* Пасля вайны на гасп. рабоце ў Мінскай вобл.

**ЛЕ́ЛЬЧЫЦЫ**, гар. пасёлак, цэнтр Лельчыцкага р-на, на р. Убарць, за 207 км на ПдЗ ад Гомеля, за 67 км ад чыг. ст. Ельск на лініі Калінкавічы — Оўруч, на аўтадарозе Глушкевічы — Мазыр. У ліп.— жн. 1941 у раёне Л. трымалі абарону Лельчыцкі ўмацаваны раён, пагранічны атрад і Лельчыцкі знішчальны батальён. 10.7.1941 фашысты захапілі Л., але пагранічнікі і байцы знішчальнага батальёна выбілі іх з пасёлка. У сярэдзіне жніўня 1941 часці Чырв. Арміі пакінулі Лельчыцкі ўмацаваны раён. На базе парт.-сав. актыву Лельчыцкага р-на быў сфарміраваны *партызанскі атрад Лельчыцкі*, узброены камандаваннем умацаванага раёна 10 станковымі кулямётамі. Пасля баёў 3—4.9.1941 фашысты ўварваліся ў пасёлак, але, блакіраваныя партызанамі, 9 вер. пакінулі яго. 23.9.1941 акупіраваны фашыстамі, якія за час акупацыі знішчылі ў Л. і раёне 2148 чал., у т. л. ў Л. 685 жыхароў, спалілі пасёлак і ўсе вёскі раёна (з 7562 дамоў у раёне ўцалела толькі 32). У перыяд акупацыі на тэр. раёна дзейнічалі Лельчыцкія падп. райкомы КП(б)Б (24.3.1943—15.1. 1944) і ЛКСМБ (жн.— вер. 1941; 19.4.1943—15.1.1944), партыз. брыгады 130-я Петрыкаўская, 50-я Жыткавіцкая, 37-я Ельская і Лельчыцкая, асобныя партыз. атрады Тураўскі і Ельскі (гл. адпаведныя артыкулы); выдавалася падп. газ. *«По сталинскому пути»*. У час рэйду з Бранскіх лясоў на правабярэжную Украіну партыз. злучэнне пад камандаваннем С. А. Каўпака пры ўдзеле Ельскага партыз. атрада ў ноч на 26.11.1942 знішчыла фаш. гарнізон у Л. (больш 300 гітлераўцаў, у т. л. гебітскамісара), 2 бронемашыны, электрастанцыю, вузел сувязі, 3 ням. прадпрыемствы, 2 масты цераз р. Убарць, вызваліла з турмы каля 100 сав. грамадзян. Вясной 1943 намаганнямі ўкр. фарміраванняў А. Ф. Фёдарава, Я. І. Мельніка, М. І. Навумава, С. Ф. Малікава і інш. і мясцовых партызан Лельчыцкі р-н стаў цэнтрам партыз. краю, які ахопліваў 14 раёнаў БССР і УССР. Партызаны ўкр. злучэння А. М. Сабурава і мясцовыя жыхары каля хутара Дубніцкае Лельчыцкага р-на абсталявалі пасадачную пляцоўку для самалётаў, праз якую ішло забеспячэнне ўзбраеннем і боепрыпасамі партызан Украіны, Беларусі, Малдавіі і Польшчы. Тут 28—29.5.1943 члены падп. ЦК КП(б)У на чале з сакратаром ЦК Дз. С. Каротчанкам правялі нараду каманднага паліт. саставу ўкр. партыз. фарміраванняў. У сак., маі і чэрв. 1943 на базе дастаўленых самалётамі груп малдаўскіх партызан у Лельчыцкім р-не пры садзеянні бел. і ўкр. партызан сфарміраваны 3 атрады, якія былі зведзены ў 1-е малдаўскае партыз. злучэнне (камандзір — палк. В. А. Андрэеў). Партызаны, папоўніўшы свае рады з ліку мясцовага насельніцтва, правялі рад баявых аперацый супраць фашыстаў у Лельчыцкім і суседніх раёнах і пайшлі ў рэйд на Пд. Вызвалены Л. 23.1.1944 часцямі 14-й гвардз. кав. дывізіі (палк. Р. П. Коблаў) 7-га гвардз. кав. корпуса і 117-м стралк. палком (падпалк. Ф. І. Вінакураў) 23-й стралк. дывізіі 89-га стралк. корпуса 61-й арміі Беларускага фронту ў ходзе асенне-зімняга наступлення 1943—44. У вызваленні Л. прымала ўдзел Лельчыцкая партыз. брыгада (камандзір К. М. Дамбоўскі). У Л. брацкая магіла членаў аператыўнай групы ЦК ВЛКСМ, лётчыкаў і партызана, якія загінулі ў 1943, магіла ахвяр фашызму, на іх устаноўлены помнікі; мемар. дошка ў памяць аб баявой аперацыі партыз. злучэння С. А. Каўпака. *М. І. Камінскі.*

**ЛЁМЗА** Уладзімір Антонавіч (н. 24.1. 1900, в. Куправічы Іўеўскага р-на), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1925. З 1923 на гасп., парт., прафс. і сав. рабоце. З чэрв. 1941 у Чырв. Арміі. З чэрв. 1942 камісар партыз. атрада, у снеж. 1942— ліп. 1944— *партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава,* адначасова чл. Ветрынскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—58 на гасп. рабоце ў Мінску.

**ЛЕМЯШО́НАК** Даніл Майсеевіч (4.4. 1908, в. Баранавічы Бабруйскага р-на —4.4.1981), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1938. Скончыў Гомельскую саўпартшколу (1933), Рэсп. парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1949). У 1929—40 на гасп. і парт. рабоце.

Па рашэнню ЦК КП(б)Б у ліп. 1941 накіраваны ў тыл ворага: сакратар парткома па кіраўніцтву падп. барацьбой на тэр. Бабруйскага р-на і горада, з студз. 1942 чл. Бабруйскага к-та партыз. руху (гл. ў арт. *Бабруйскае партыйна-камсамольскае падполле*), нач. штаба 278-га партыз. атрада, з 2.9.1942 да 29.11.1943 сакратар Бабруйскага падп. РК КП(б)Б. З 1944 на парт. рабоце, з 1956 заг. аддзела парторганаў, старшыня парткамісіі Мінскага абкома КПБ, у 1960—67 заг. аддзела Мінскага аблвыканкома. Чл. ЦК КПБ у 1952—60. Дэп. ВС БССР у 1955—59. Аўтар кн. «Баявыя спадарожнікі мае» (1981).

**ЛЕ́НІН**, вёска ў Жыткавіцкім р-не, на правым беразе р. Случ, за 46 км на ПнЗ ад Жыткавіч, за 18 км ад чыг. ст. Мікашэвічы, аўтадарогамі звязаны з Мікашэвічамі і Слуцкам. У 1940—50 цэнтр Ленінскага р-на, да 1952 гар. пасёлак. Акупіраваны ў ліп. 1941 ням.-фаш. захопнікамі, якія забілі ў райцэнтры і раёне 4474 чал., у Л. ў жн. 1942 яны расстралялі 1850 чал., у лют. 1943 у час карнай аперацыі *«Горнунг»* знішчылі 1046 чал., спалілі 351 двор. З першых дзён вайны ў раёне дзейнічаў створаны 26.6.1941 партыз. атрад пад камандаваннем В. З. Каржа. 12.9.1942 партыз. атрады «Камарова» (В. З. Каржа), «Пятровіча» (з снежн. 1942 імя Кірава) і імя М. Ц. Шыша разграмілі ў Л. варожы гарнізон. На працягу 1942 партызаны поўнасцю ачысцілі ад ням.-фаш. акупантаў Ленінскі, часткова Лунінецкі і Ганцавіцкі р-ны, на тэр. якіх утварылася Ленінская партыз. зона, у 1943 улілася ў *Акцябрска-Любанскую партызанскую зону*. У снеж. 1942 у Ленінскім р-не аднавілі работу ўсе сельскія Саветы. На тэр. раёна дзейнічаў партыз. аэрадром (каля в. Навіны). Партызаны ўтрымлівалі пасёлак да лют. 1943. У маі 1944 у час карнай аперацыі *«Марабу»* ў раёне Л. адбыліся жорсткія баі паміж партызанамі і карнікамі. У Л. і раёне дзейнічалі Ленінскія падп. райкомы КП(б)Б (канец 1942—14.7.1944) і ЛКСМБ (снеж. 1942—14.7.1944), партыз. брыгады імя Будзённага, імя Кірава, асобныя партыз. атрады імя Шчорса, імя І. І. Чуклая (гл. адпаведныя артыкулы). Вызвалены ў сярэдзіне ліп. 1944 воінамі 55-й стралк. дывізіі (палк. К. М. Андрусенка) 89-га стралк. корпуса 61-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе *Беларускай аперацыі 1944*. У Л. брацкія магілы камсамольцаў, сав. ваеннапалонных і ахвяр фашызму, магіла сав. патрыёта Н. В. Алейніка, падпольшчыкаў сям'і Чопчыцаў, на якіх пастаўлены помнікі, помнік партызанам, што разграмілі ў Л. ням.-фаш. гарнізон. *Т. І. Паваліхіна.*

**«ЛЕ́НІНЕЦ»**, газета, заснавана ў 1930 пад назвай «Барацьбіт за калектывізацыю». У час ням.-фаш. акупацыі орган Плешчаніцкага падп. РК КП(б)Б. Вядома 26 нумароў за 8.3.1943—18.5.1944 на рус. (некаторыя нумары на бел. і рус.) мове. Рэдактар С. Ц. Барадаўкін. Пасля вызвалення выдавалася да 1962, орган Плешчаніцкага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**«ЛЕ́НІНСКАЯ ПРА́ЎДА»**, газета, заснавана ў 1929 пад наз. «Чырвоны койданавец». У час ням.-фаш. акупацыі орган Дзяржынскага падп. РК КП(б)Б. Вядома 36 нумароў за 12.9.1943—30.6.1944 на бел. мове. Рэдактар В. І. Яблашэўскі. Пасля вызвалення выдавалася пад той жа назвай, з 1963 «Сцяг Кастрычніка», орган Дзяржынскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**ЛЕ́НІНСКІ БОЙ 1942**, бой партызан атрадаў «Камарова» (гл. ў арт. *Партызанская брыгада імя С. М. Будзённага*), «Пятровіча» (гл. ў арт. *Партызанская брыгада імя С. М. Кірава*), імя М. Ц. Шыша (гл. ў арт. *Партызанская брыгада імя В. М. Молатава*) супраць ням.-фаш. захопнікаў у г. п. Ленін Пінскай вобл. 12.9.1942.

План аперацыі па разгрому гарнізона ў г. п. Ленін (каля 60 гітлераўцаў) распрацавалі і кіравалі боем нам. камандзіра партыз. атрада імя Шыша П. П. Паталах. Было створана 5 штурмавых груп (150 партызан), 3 з якіх размяшчаліся на шляхах магчымага адыходу праціўніка, астатнія — у засадах на дарогах у р. п. Мікашэвічы і в. Сінкевічы з мэтай не дапусціць падыходу падмацаванняў ворагу.

Раніцай 12.9.1942 партызаны раптоўна напалі на гарнізон. Праціўнік не змог аказаць супраціўлення. У баі было забіта і паранена 20 гітлераўцаў, астатнія уцяклі. Партызаны вызвалілі з турмы больш за 50 сав. патрыётаў, захапілі трафеі (зброю і харчаванне) і арганізавана адышлі. У баі загінуў 1 партызан, 2 партызаны былі паранены. У гонар баявых дзеянняў партызан у в. Ленін Жыткавіцкага р-на ў 1960 пастаўлены помнік. *М. Ф. Шумейка.*

**ЛЕНІНСКІ КАМУНІСТЫ́ЧНЫ САЮЗ МОЛАДЗІ БЕЛАРУ́СІ** (ЛКСМБ). Састаўная частка, адзін з баявых атрадаў ВЛКСМ; працуе пад кіраўніцтвам *Цэнтральнага Камітэта ЛКСМБ*, *Камуністычнай партыі Беларусі*.

Напярэдадні вайны на Беларусі было 15 790 пярвічных камсам. арг-цый, якія аб'ядноўвалі 264 620 членаў ВЛКСМ. Працавалі ЦК ЛКСМБ, 10 абласных, 14 гарадскіх, 204 раённыя (у т. л. 12 у гарадах) к-таў камсамола. З першых дзён вайны ЛКСМБ усю сваю дзейнасць падпарадкаваў задачам абароны Радзімы. ЦК ЛКСМБ пастановай ад 28.6.1941 «Аб задачах камсамольскіх арганізацый Беларусі ў сувязі з ваен. становішчам» аб'явіў камсамол Беларусі мабілізаваным на вайну. К-ты і пярвічныя арг-цыі ЛКСМБ прынялі актыўны ўдзел у правядзенні ўсеагульнай мабілізацыі, у стварэнні і баявой дзейнасці *народнага апалчэння* і *знішчальных батальёнаў*, у выкананні ўсіх мерапрыемстваў партыі і ўрада па ўмацаванню абараназдольнасці краіны. З канца чэрв. да жн. 1941 добраахвотна і па мабілізацыі ў Чырв. Армію і на флот пайшло больш як 130 тыс. членаў ЛКСМБ, больш за 1500 з іх накіравана камсам. органамі ў разведгрупы Зах., Цэнтр., Бранскага франтоў. У дзейную армію пайшло каля палавіны ўсіх камсам. работнікаў. Да канца першага тыдня вайны перад ЛКСМБ паўстала задача аказання ўсямернай дапамогі Кампартыі ў арганізацыі падп. і партыз. руху ў тыле праціўніка. Побач з парт. былі створаны падп. камсам. органы (гл. ў арт. *Камсамольска-маладзёжнае падполле, Абласныя падпольныя камітэты ЛКСМБ, Міжраённыя падпольныя камітэты ЛКСМБ, Міжраённыя падпольныя цэнтры ЛКСМБ, Раённыя падпольныя камітэты ЛКСМБ*). Да сярэдзіны ліп. 1941 пры актыўным удзеле ЛКСМБ на Беларусі было створана і дзейнічала 78 знішчальных батальёнаў і больш як 200 фарміраванняў нар. апалчэння, якія налічвалі паводле няпоўных звестак больш за 73 тыс. патрыётаў, што не падлягалі прызыву ў армію; больш як пал. іх асабовага саставу складалі камсамольцы.

Знішчальныя батальёны і нар. апалчэнцы ахоўвалі нас. пункты, абясшкоджвалі варожых дыверсантаў, вялі разведку ў тыле праціўніка, удзельнічалі ў абарончых баях разам з часцямі Чырв. Арміі. Толькі ў абарончых баях за Магілёў удзельнічала больш за 1 тыс. камсамольцаў-апалчэнцаў. У 1-м узводзе Камуніст. батальёна магілёўскіх апалчэнцаў было 30 камсамольцаў — студэнтаў Магілёўскага пед. ін-та, 28 з іх загінулі ў баях на подступах да горада. Разам з воінамі Чырв. Арміі мужна змагаліся маладыя апалчэнцы Гомеля ў 6-дзённым баі за горад ва ўмовах бесперапынных атак намнога большых сіл праціўніка. Камсамольцы і моладзь, якія не былі прызваны ў армію і не ўваходзілі ў знішчальныя батальёны ці апалчэнне, самаахвярна працавалі на прадпрыемствах, транспарце, у калгасах і саўгасах, клапаціліся аб параненых воінах. Дапамагалі байцам і камандзірам Чырв. Арміі выходзіць з варожага акружэння, забяспечвалі іх харчамі, хавалі, лячылі параненых. Камсамольцы і маладыя сяляне вёсак Беражно, Пагарэлка, Сіняўская Слабада Мірскага р-на дапамаглі выйсці з акружэння амаль 700 сав. воінам.

23.6.1941 ЦК КП(б)Б прыняў пастанову аб эвакуацыі дзіцячых устаноў з гарадоў, што падвяргаліся варожым бамбардзіроўкам. Пры актыўным удзеле камсамольцаў з Беларусі ўглыб краіны вывезена больш за 190 дзіцячых устаноў, у якіх знаходзілася 16,5 тыс. дзяцей. Камсамольцы і моладзь удзельнічалі ў эвакуацыі на ўсход краіны насельніцтва, абсталявання прадпрыемстваў і МТС, грамадскай жывёлы, збожжа калгасаў і саўгасаў.

У сувязі з акупацыяй ням.-фаш. захопнікамі тэр. БССР к-ты і арг-цыі

ЛКСМБ пад кіраўніцтвам парт. органаў і арг-цый разгарнулі падп. дзейнасць у тыле праціўніка. Каля 100 тыс. камсамольцаў змагаліся з ворагам у падполлі і партызанах, 52 % асабовага саставу партыз. фарміраванняў складалі камсамольцы і моладзь да 30 гадоў. Эвакуіраванае з Беларусі насельніцтва, сярод якога было многа моладзі не прызыўнога ўзросту, дастойна выконвала свой абавязак: працавала на вывезеных з БССР прадпрыемствах, на мясцовых ф-ках і з-дах, шахтах і рудніках, у калгасах і саўгасах, на транспарце. Эвакуіраваны ў г. Курган з-д «Гомсельмаш», на якім разам з кадравымі рабочымі працавала 1500 чал. моладзі ад 17 да 20 гадоў, быў змантіраваны раней вызначанага тэрміну і ўжо праз месяц даў прадукцыю — мінамёты. Праца многіх бел. камсамольцаў у сав. тыле адзначана ордэнамі і медалямі, а машыніст паравоза А. М. Чухнюк удастоена звання Героя Сацыяліст. Працы.

Саюза Б. І. *Коўзан*. Гэта адзіны ў свеце лётчык, які 4 разы ў паветры зрабіў таран. Камсамольцы і моладзь Беларусі змагаліся на ўсіх франтах Вял. Айч. вайны і ўнеслі дастойны ўклад у перамогу над фаш. Германіяй. Дзесяткі тысяч юнакоў і дзяўчат аддалі жыццё за Радзіму. Звання Героя Сав. Саюза ўдастоены каля 200 камсамольцаў — воінаў, партызан і падпольшчыкаў.

Вызваленне Беларусі войскамі Чырв. Арміі пачалося ў вер.— кастр. 1943. Выйшлі з падполля Гомельскі абком, 2 гаркомы, 30 райкомаў ЛКСМБ. Да канца 1943 у вызваленых раёнах былі створаны 695 пярвічных камсам. арг-цый, якія аб'ядноўвалі каля 6 тыс. камсамольцаў. Па меры выгнання акупантаў з тэр. рэспублікі ў ліп.— пач. жніўня 1944 адноўлены ўсе абкомы, гаркомы і райкомы камсамола, 10263 пярвічныя арг-цыі, што аб'ядноўвалі каля 112 тыс. членаў ВЛКСМ. Камсамольцы праводзілі агітацыйна-прапагандысцкую работу сярод насельніцтва вызваленых раёнаў. Камсамольскія арг-цыі сталі баявымі аператыўнымі цэнтрамі мабілізацыі моладзі на аказанне дапамогі фронту і на аднаўленне нар. гаспадаркі.

прамысловых прадпрыемстваў, сельскай гаспадаркі. У 1944 ва ўсіх гарадах рэспублікі былі створаны жаночыя брыгады па аднаўленню разбураных гарадоў. Толькі ў Мінску ў аднаўленчых работах удзельнічала 500 маладзёжных жаночых брыгад. На прадпрыемствах Беларусі ствараліся камсамольска-маладзёжныя франтавыя брыгады. Удасканальваючы арганізацыю і тэхналогію вытворчасці, такія брыгады меншай колькасцю людзей выконвалі ранейшыя і нават большыя нормы. Да Дня Перамогі ў рэспубліцы працавала 1240 камсамольска-маладзёжных брыгад, у якіх налічвалася 25 тыс. маладых рабочых.

Самааддана, з вял. напружаннем працавала сельская моладзь, аднаўляючы МТС, калгасы, саўгасы. Вясной 1945 у калгасах і саўгасах было ў 2 разы менш работнікаў, чым да вайны, а колькасць мужчын складала ўсяго 15 %. Амаль не было тэхнікі, прылад, коней, насення. Людзі капалі зямлю рыдлёўкамі, апрацоўвалі яе, запрэгшыся ў плугі і бароны. У вясеннюю бездарожжа 1945 у асн. жанчыны і падлеткі перанеслі на сабе ад чыг. станцый у калгасы 700 тыс. пудоў збожжа, дадзенага дзяржавай на насенне. Пераносіць грузы іншы раз даводзілася на адлегласць да 70 км (напрыклад, у Лоеўскім р-не). Вялікі ўклад зрабілі камсамольцы ў аднаўленне жылля, бальніц, школ ФЗН, клубных устаноў.



Камсамольскі сход у партызанскім атрадзе імя Катоўскага Пінскага злучэння. 1943.



Партызаны вядуць бой каля г. Лепель.

Мільёны сав. воінаў, сыноў і дачок усіх братніх народаў СССР упісалі бессмяротныя старонкі ў гісторыю Вял. Айч. вайны, праявілі беспрыкладную мужнасць, веліч духу, бязмежную адданасць сваёй сацыяліст. Радзіме. Сярод камсамольцаў, што вызначыліся на франтах вайны, нямала беларусаў. Камсамольцы П. І. *Аўрамкаў*, У. І. *Ярмак*, І. С. *Зайцаў*, С. А. *Каваленка*, П. В. *Касцючык*, П. І. *Купрыянаў* закрылі сваім целам амбразуры варожых дзотаў, В. А. *Тумар* кінуўся пад танк са звязкай гранат, П. А. *Галецкі* з узрыўчаткай — пад эшалон з гаручым. Усім ім прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Камсамолец Ф. А. *Смалячкоў* з в. Падгор'е Быхаўскага р-на стаў зачынальнікам снайперскага руху ў войсках Ленінградскага фронту, 126 патронамі ён знішчыў 125 гітлераўцаў. Яму прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Выключную мужнасць праявіў выхаванец бабруйскага камсамола ваенны лётчык Герой Сав.

Дзякуючы дакладнай рабоце парт., сав. і камсам. органаў і арг-цый, якія дзейнічалі сумесна з ваенкаматамі, да сярэдзіны студз. 1945 у Чырв. Армію ўлілося звыш 560 тыс. чал. Больш як 100 тыс. жыхароў рэспублікі, у асн. камсамольцы і моладзь, былі накіраваны на будаўніцтва ваен. аб'ектаў, аэрадромаў, рамонт чыгунак і шашэйных дарог.

По рашэнню Бюро ЦК ЛКСМБ у вызваленых раёнах паўсюдна ствараліся камсамольска-маладзёжныя брыгады па нарыхтоўцы і вывазу лесу для важнейшых будоўляў краіны. У 1944 моладзь Беларусі нарыхтавала больш як 2 млн. $м^3$ лесаматэрыялаў для чыгунак, авіяц. прамысловасці, аднаўлення шахтаў Данбаса і інш. патрэб. На мед. курсах падрыхтаваны тысячы дзяўчат для работы ў шпіталях, сан. паяздах. Донары рэспублікі з ліку моладзі выратавалі жыццё многім параненым воінам Чырв. Арміі. Па закліку ЦК ЛКСМБ камсам. арг-цыі БССР далучалі моладзь да актыўнай работы па аднаўленню

За мужнасць і гераізм, праяўленыя камсамольцамі і моладдзю Беларусі ў гады Вял. Айч. вайны, ЛКСМБ у 1945 узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. *Р. М. Шавяла.*

**«ЛЕ́НІНСКІ СЦЯГ»**, газета, заснавана ў 1931. У час ням.-фаш. акупацыі орган Лёзненскага падп. РК КП(б)Б і раённага Савета дэп. працоўных. Вядомы нумар за 24.3.1943. Пасля вызвалення выдавалася пад той жа назвай, з 1963 «Сцяг перамогі», орган Лёзненскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«ЛЕ́НІНСКІ СЦЯГ»**, газета, заснавана ў 1931. У час ням.-фаш. акупацыі орган Хойніцкага падп. РК КП(б)Б. Выдавалася ў 1943 на бел. мове. Пасля вызвалення выходзіла пад той жа назвай, з 1962 «Новы шлях», з 1965 «Ленінскі сцяг», орган Хойніцкага

РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«ЛЕ́НІНСКІ ШЛЯХ»**, газета, заснавана ў 1930. У час. ням.-фаш. акупацыі орган Асвейскага падп. РК КП(б)Б. Выходзіла ў лют. 1943— чэрв. 1944. Вядома 9 нумароў за 12.6—24.10. 1943 на бел. мове (№ 1 на рус. мове). Рэдактар Я. В. Лукашонак. Пасля вызвалення выдавалася да 1959, орган Асвейскага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**«ЛЕ́НІНСКІ ШЛЯХ»**, газета, заснавана ў 1931. У час ням.-фаш. акупацыі орган Буда-Кашалёўскага падп. РК КП(б)Б. Вядома 9 нумароў за 2.8—9.11.1943 на бел. мове. Рэдактар К. С. Кавалёў. Пасля вызвалення выдавалася пад той жа назвай, з 1962 «Авангард», орган Буда-Кашалёўскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«ЛЕ́НИНСКИЕ ЗАВЕ́ТЫ»**, газета, заснавана ў 1931 пад наз. «Чырвоная Тураўшчына». У час ням.-фаш. акупацыі орган Тураўскага падп. РК КП(б)Б. Вядомы № 1, 2 за 31.10 і 5.12. 1943 на рус. мове. Пасля вызвалення выдавалася да 1962 пад наз. «Ленінскія заветы», орган Тураўскага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**«ЛЕ́НИНСКИЙ ПРИЗЫ́В»**, газета, заснавана ў 1918 пад наз. «Известия Совета рабочих, крестьянских, батрацких и красноармейских депутатов Оршанского уезда». У час ням.-фаш. акупацыі орган Аршанскага падп. РК КП(б)Б. Вядома 9 нумароў за 27.7. 1943—20.4.1944 на рус. мове. Пасля вызвалення выдаецца пад наз. «Ленінскі прызыў», орган Аршанскіх РК і ГК КПБ, раённага і гар. Саветаў нар. дэпутатаў.

**ЛЕ́НЧЫКАЎ** Георгій Рыгоравіч (17.2. 1910, в. Чапялінка Горацкага р-на — 27.8.1962), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1943. З 1930 працаваў на чыгунцы, заводзе ў Ленінградзе. З чэрв. 1941 у Чырв. Арміі. У партызанах з лют. 1942: старшы групы, у кастр. 1943— чэрв. 1944 камандзір 115-га атрада (гл. *Партызанская брыгада 115-я Горацкая*). Пасля вайны на адм. рабоце.

**ЛЕ́ПЕЛЬ**, горад абл. падпарадкавання, цэнтр Лепельскага р-на, на беразе воз. Лепельскае. За 115 км на ПдЗ ад Віцебска, чыг. ст. на лініі Орша — Лепель, на аўтадарозе Мінск — Полацк, звязаны аўтадарогамі з Віцебскам, Оршай, Улай, Докшыцамі. 13,8 тыс. жыхароў у 1939. У пач. вайны з мэтай зрыву наступлення ням. 3-й танк. групы на лепельскім напрамку і пагрозы фарсіравання ёю з ходу Дняпра, паводле загада камандуючага Зах. фронтам ад 28.6.1941 у раёне Л. стварaўся абарончы рубеж. Абарона горада ўскладалася на Лепельскую групу войск у складзе мясцовага гарнізона, Лепельскага мінамётнага і Вільнюскага пяхотнага вучылішчаў, 103-га асобнага процітанк. дывізіёна, 58-га асобнага сапёрнага батальёна, які ў раёне Л. падрыхтаваў да падрыву ўсе масты, паставіў міны на дарогах. На подступах да горада ішлі жорсткія баі. У сувязі з пагрозай захопу мастоў праціўнікам воіны 169-га асобнага сапёрнага батальёна (маёр Л. Н. Афанасьеў), якія дзейнічаў у якасці атрада загараджэння, па загаду начальніка Лепельскага гарнізона ген.-маёра Б. Р. Церпілоўскага ў ноч на 3 ліп. спалілі або ўзарвалі ўсе масты, калі на іх паявіліся галаўныя танкі ням. часцей 3-й танк. групы Гота, прыпынілі іх наступленне. Акупіраваны 3.7.1941 ням.-фаш. захопнікамі. 6—10 ліп. часці 20-й арміі Зах. фронту нанеслі т. зв. *Лепельскі контрудар 1941* у напрамку на Л. і Сянно з мэтай разгрому лепельскай групоўкі праціўніка; на лепельскім напрамку ў ходзе баёў знішчылі ням. матарызаваную дывізію, да 40 гармат, вял. колькасць транспартных сродкаў праціўніка, што знізіла яго тэмпы прасоўвання на ўсход. Ням.-фаш. акупанты забілі ў Л. больш за 1 тыс. чал., у горадзе і раёне 5229 чалавек. У Л. і раёне дзейнічалі *Лепельскае партыйна-камсамольскае падполле*, Лепельскія падп. райкомы КП(б)Б (1.8.1941—29.6. 1944) і ЛКСМБ (1.7.1942—29.6.1944), партыз. брыгады М. П. Гудкова, імя Чапаева, Чашніцкая «Дубава», Сенненская, Лёзненская, Лепельская імя Сталіна, 1-я Беларуская (2-га складу), 2-я Ушацкая імя Панамарэнкі, 1-я Смаленская, Багушэўская (2-га складу), 2-я імя Заслонава, 1-я Антыфашысцкая, «Чэкіст», асобныя партыз. атрады В. В. Шчарбіны, 1-ы, 5, 10, 20-ы (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. «*Калгасная праўда*». Частка тэр. Лепельскага р-на ўваходзіла ў *Полацка-Лепельскую партызанскую зону*. У кастр. 1943 у час *Лепельскай аперацыі 1943* партызаны нанеслі удар па добра ўмацаваным ням.-фаш. гарнізоне ў Л., прычынілі ворагу значныя страты ў жывой сіле і тэхніцы (гл. *Лепельскі бой 1943*). Вызвалены Л. 28.6.1944 воінамі 306-й (ген.-маёр М. І. Кучаравенка), 357-й (ген.-маёр А. Г. Кудраўцаў) стралк. дывізій 1-га стралк. корпуса, 10-й (палк. М. У. Волкаў) і 39-й (палк. І. П. Калінін) гвардз. танк. брыгад, 1203-га самаходнага арт. палка (падпалк. А. І. Сяроў) 1-га Прыбалт. фронту, 7-й гвардз. механіз. брыгады (палк. М. І. Радзівонаў) 3-га гвардз. механіз. корпуса 3-га Бел. фронту пры падтрымцы 3-й паветр. арміі ў ходзе *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944*. У Л. брацкія магілы сав. воінаў і партызан, на якіх пастаўлены помнікі, помнікі Вызвалення, сав. воінам, партызанам і падпольшчыкам, мемар. дошкі падпольшчыкам, партызанцы В. А. Маргевіч. Працуе *Лепельскі краязнаўчы музей*. *В. С. Паваліхіна.*

**ЛЕ́ПЕЛЬСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ**. Створана і дзейнічала з ліп. 1941 да 28.6.1944 у Лепельскім р-не пад кіраўніцтвам Лепельскага падп. РК КП(б)Б. Аб'ядноўвала 24 групы, 241 чал., у т. л. 43 камуністаў, 81 камсамольца.



Дэлегаты камсамольскай канферэнцыі партызанскай брыгады імя В. М. Молатава Пінскай вобласці. 1943.

У першыя дні вайны бюро Лепельскага РК КП(б)Б разгледзела пытанне аб стварэнні падп. парт. і камсам. арг-цый і груп на выпадак акупацыі раёна. Сярод пакінутых для падп. работы былі камуністы: дырэктар лясгаса Ф. М. Юрэвіч, журналіст С. Р. Бараноўскі, настаўнікі А. А. Маруньска,, П. К. Пацей, Ф. Ф. Садкоўская, агraном К. А. Мельнікаў, старшыні сельсаветаў К. А. Яско, П. Ц. Прўднікаў, П. В. Хацько, сакратар сельсавета А. С. Ладзік, інструктар РК КП(б)Б А. М. Булух і інш. У пач. жн. 1941 ЦК КП(б)Б накіраваў на падп. работу ў акупі-

раваны раён У. Е. Лабанка. На пасяджэнні падп. РК КП(б)Б 23.8.1941 зацверджаны Несенская і Ляхавіцкая падпольныя групы на чале з Садкоўскай і Яско. Падпольшчыкаў горада ўзначаліў А. А. Марунька (пазней стварыў групу і ў в. Губіна). У вер. 1941 дзейнічала 17 груп, якія ўзначальвалі камуністы С. Р. Бараноўскі, С. Ц. Слабодчыкаў, камсамолка І. І. Вялюга, беспартыйны А. С. Мілы і інш. У вёсках раёна групы ўзначальвалі камуністы Ф. М. Юрэвіч (Валасевічы — Луцішча), П. Ц. Пруднікаў (Караевічы — Жэжліна), П. В. Хацько (Радунь), М. І. Акулёнак (Белае — Зарэчча), С. А. Пад'ельскі (Свядзіца), камсамольцы П. К. Пацей (Заслаўкі), С. А. Будкевіч (Гарадчэвічы), Э. П. Ласкіна-Кацубінская (Плешкі), беспартыйныя Р. П. Зайцаў (Забор'е), С. В. Шнітка (Кісцялёва), М. М. Александровіч (Ворань), А. П. Ярашэўскі (Загорцы), Г. Ф. Шатыронак (Сасняті).

Працуючы ў друкарні акупантаў, былы адказны сакратар раённай газеты С. Р. Бараноўскі наладзіў сувязь з даваен. работнікамі друкарні І. В. Чарняўскім, М. В. Нарушэвіч, Ф. Т. Раманенкам, А. І. Катырла. Патрыёты распаўсюджвалі лістоўкі са зводкамі Саўінфармбюро, якія прымалі па радыёпрыёмніках, устаноўленых у дамах П. В. Вячорскага, А. С. Куляшова, П. Я. Ясюка, а таксама па ням. радыё ў гар. управе, дзе працаваў Нарушэвіч. З 7.11.1941 у Лепелі распаўсюджваліся лістоўкі і адозвы, зробленыя друкарскім спосабам. Іх тэксты рыхтаваў Чарняўскі, друкаваў С. Р. Бараноўскі, выносілі з друкарні Катырла і Нарушэвіч, дастаўлялі ў групы М. Дз. Гласковіч, А. З. Дакуцька, К. Д. Коац, Д. Р. Лаўрыновіч, В. Р. Мамчына, А. З. Мяшкова, А. М. Парфянчук і інш. Восенню 1941 па заданню РК КП(б)Б падпольшчыкі К. А. Мельнікаў, Р. І. Бараноўскі, П. С. Лаўрыновіч, М. П. Кулеш і М. Ц. Раманенка вывелі са строю чыг. ст. Лепель: напсавалі чыг. стрэлкі, вадакачку і інш. абсталяванне. У канцы снеж. 1941 П. С. Лаўрыновіч падпаліў ням. гараж, у якім згарэлі 5 машын.

Адну з груп узначаліла І. І. Вялюга, якая працавала медсястрой у гар. бальніцы. Выкарыстоўваючы службовы пропуск, яна наладзіла сувязі з многімі гар. і сельскімі падп. групамі. Падпольшчык М. М. Калішкевіч, якога ўладкавалі пашпартыстам у гар. управу, забяспечваў Вялюга бланкамі пашпартоў і пропускаў. У кантакце з гэтай групай дзейнічала група ўрачоў на чале з С. Т. Слабодчыкавым. Абедзве арг-цыі разгарнулі работы па вызваленню з лагера смерці сав. ваеннапалонных. З дапамогай А. І. Латышавай, якая працавала на біржы працы, многія з вызваленых былі ўладкаваны па падробленых дакументах ва ўстановы акупантаў, на торфазавод «Курган», адкуль іх нерапраўлялі да партызан. Рады падпольшчыкаў папоўнілі вызваленыя з палону ўрачы М. В. Булычоў, Д. П. Вардасанідзе, Я. І. Волчак, І. А. Сталяроў. Усе групы распаўсюджвалі лістоўкі, арганізоўвалі сабатаж нарыхтовак прадуктаў для варожых войск, псавалі лініі сувязі і інш.

Летам 1941 у в. Ізафатава створана група з ваеннаслужачых, трапіўшых у акружэнне, на чале з камуністам Дз. Ц. Караленкам. Па даручэнню Лепельскага падп. РК КП(б)Б група з дапамогай мясцовых патрыётаў Я. Дз. і Л. Дз. Скавародкаў пачала арганізоўваць людзей для будучага партыз. атрада. Каб падрыхтаваць месца яго дыслакацыі, лясная ахова Зацяклясскага лясніцтва была ўкамплектавана надзейнымі людзьмі. У лютым 1942 арганізаваны партыз. атрад № 68, які ўзначаліў У. Е. Лабанок. Падпольшчыкі груп Пруднікава, Парфянчук, Пацея сабралі і перадалі атраду значную колькасць кулямётаў, вінтовак, гранат, толу, патронаў і інш. зброі і боепрыпасаў. Урачы групы Слабодчыкава нарыхтавалі і перадалі партызанам шмат медыкаментаў і перавязачнага матэрыялу. Вялікую ролю ў актывізацыі барацьбы з ворагам адыграла газета падп. РК КП(б)Б «Калгасная праўда» (рэд. К. Р. Пацейка, які захаваў даваен. друкарскае абсталяванне і шрыфт; літаратурныя работнікі П. Усціна ў і А. Зянюк; мастакі — партызаны М. Ц. Гуціеў і М. І. Абрыньба). У друкарні, абсталяванай партызанамі і падпольшчыкамі, друкаваліся лістоўкі, плакаты, газеты Ушацкага, Чашніцкага, Бешанковіцкага і Ветрынскага падп. РК КП(б)Б. Лістоўкі, плакаты і карыкатуры падпольшчыкі расклейвалі на платах, раскідвалі на рынку, распаўсюджвалі сярод знаёмых. Шырокая антыфаш. прапаганда вялася сярод салдат варожых «добраахвотніцкіх» фарміраванняў. У выніку да партызан пераходзілі як асобныя салдаты, так і цэлыя падраздзяленні. 23.9.1943 да партызан перайшлі 150 узброеных салдат і афіцэраў, пазней — рота «добраахвотнікаў», захапіўшы з сабой 12 павозак, 15 коней, мінамёт з боепрыпасамі, 3 кулямёты, больш за 50 вінтовак.

1.5.1942 члены групы Парфянчук вывесілі на будынку гар. управы чырвоны сцяг. Члены Несенскай групы разграмілі валасную ўправу і малочны пункт, перавялі да партызан групу распрапагандаваных паліцэйскіх. Група Мілага здабывала ў гар. управе, палявой і мясцовай камендатурах звесткі пра дыслакацыю і перамяшчэнне вайсковых часцей, размяшчэнне складоў, умацаванне агнявых кропак. Вясной 1943, калі ням. камандаванне рыхтавала супраць партызан карную аперацыю «*Котбус*», група здабыла і перадала партызанам план гэтай аперацыі. Падпольшчыкі Ляхавіцкай групы папярэджвалі аб маючых адбыцца арыштах, выкрывалі і абясшкоджвалі ням. агентаў, засланых у падполле, зрывалі пастаўкі прадуктаў для ням. арміі, сабралі ў насельніцтва больш як 100 тыс. руб. у фонд абароны. Патрыёты групы Акулёнка разграмілі ўправу, узарвалі некалькі аўтамашын, забілі 2 паліцэйскіх. Гітлераўцы спалілі в. Белае разам з насельніцтвам. Падпольшчык Яско ўцягнуў у падп. барацьбу бургамістра Таронкавіцкай валаснной управы М. І. Васіленку, які забяспечваў падполле дакументамі, паведамляў аб арыштах, якія рыхтаваліся. Ён пастаянна перадаваў партызанам значную частку сабранага для германскай арміі цёплага адзення і абутку, перапраўляў у лес радыёпрыёмнік з сілкаваннем. Васіленка па даносу здрадніка быў арыштаваны акупантамі і пасля катаванняў пакараны смерцю.

Лепельскае падполле неаднаразова цярпела правалы. У сак. 1942 гітлераўцы арыштавалі падпольшчыкаў А. А. Адахоўскага, П. К. Баграцова, Р. І. Бараноўскага, С. Р. Бараноўскага, А. М. Булуха, І. М. Дзямешчанка, Н. Т. Кімстача, І. Я. Луцыковіча, К. А. Мельнікава, Л. Я. Пуляева, І. В. Халімоненку, І. В. Чарняўскага, П. Я. Ясюка. У маі 1942 была разгромлена падп. група в. Кісцялёва. За час акупацыі ў фаш. засценках загінулі 70 падпольшчыкаў.

У Лепелі на доме, дзе ў гады вайны па заданню падполля працавалі б. супрацоўнікі газ. «Калгасная праўда», устаноўлена мемар. дошка.

*У. І. Гуленка.*

**ЛЕ́ПЕЛЬСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1943,** аперацыя партыз. злучэнняў Віцебскай вобл. па разгрому буйных фаш. гарнізонаў у тыле ням. 3-й танк. арміі з мэтай дэзарганізаваць кіраванне і абарону праціўніка і адцягнуць частку яго сіл з віцебскага ўчастка Калінінскага фронту (з 20.10.1943— 1-ы Прыбалт. фронт). Праводзілася 19—22.10.1943 па загаду нач. ЦШПР П. К. Панамарэнкі ад 5.10.1943 «Аб разгроме гарнізона праціўніка і захопе г. Лепель».

Да ўдзелу ў аперацыі прыцягваліся *партызанская брыгада Лепельская імя І. В. Сталіна, партызанская брыгада 2-я Ушацкая імя П. К. Панамарэнкі,* «Аляксея» (гл. *Партызанская брыгада імя А. Ф. Данукалава), партызанская брыгада Сенненская, партызанская брыгада «За Савецкую Беларусь», партызанская брыгада 1-я імя К. С. Заслонава, партызанская брыгада імя В. І. Чапаева, партызанская брыгада Лёзненская, партызанская брыгада Чашніцкая «Дубава»* і *партызанскі полк Смаленскі.* Фактычна ў аперацыі прынялі ўдзел больш за 20 партыз. брыгад і палкоў Віцебскай і Мінскай абл. Агульнае камандаванне аб'яднанымі партыз. фарміраваннямі ажыццяўляў сакратар Чашніцкага падп. РК КП(б)Б ген.-маёр Ф. Ф. *Дуброўскі.* У адпаведнасці з указаннямі ЦК КП(б)Б і ЦШПР была пастаўлена задача аднačасовым ударам разграміць гарнізоны ў Лепелі, Чашніках, Камені, Бачэйкаве, захапіць і ўтрымаць гэтыя пункты ў мэтах садзеяння наступленню Чырв. Арміі. Трэба было таксама паралізаваць камунікацыі, якія звязвалі Лепель з Барысавам, Оршай, Віцебскам, ст. Лоўша і поўнасцю ачысціць раён ад акупантаў, папярэдзіць раптоўным ударам чарговую буйную карную аперацыю, якая тут рыхтавалася. Канкрэтны план дзеянняў быў прыняты 16 кастр. на нарадзе камандзіраў, камісараў, нач. штабоў злучэнняў у в. Валосавічы. Гал. ўдар па Лепелі, ключавой апорнай базе 3-й танк. арміі гітлераўцаў, наносілі брыгады Лепельская імя Сталіна, Чашніцкая «Дубава», 2-я Ушацкая імя Панамарэнкі, Сенненская і імя Чапаева. Скаваць праціўніка ў Чашніках павінны былі партыз. полк Смаленскі, *партызанская брыгада 1-я Віцебская,* 1-я імя Заслонава і Лёзненская. Разгром гарнізонаў у в. Камень і в. Бачэйкава даручаўся брыгадам «Аляксея», «За Савецкую Беларусь», *партызанскай брыгадзе 2-й імя К. С. Заслонава.* Для кругавога прыкрыцця флангаў і тылоў ударных брыгад да аперацыі былі прыцягнуты

*партызанская брыгада 1-я Беларуская, партызанская брыгада 1-я Смаленская, партызанская брыгада М. П. Гудкова* і *партызанская брыгада «Граза»* (з боку Барысава, Халопеніч, Талачына), *партызанская брыгада імя К. Я. Варашылава* і *партызанская брыгада імя С. М. Кароткіна* (з боку Полацка, Ветрына). З У і ПнУ ад гарнізонаў Улы, Сянно, Бешанковіч ударную лепельскую групоўку прыкрывалі *партызанская брыгада 16-я Смаленская, партызанская брыгада 2-я Беларуская імя П. К. Панамарэнкі, партызанская брыгада імя У. І. Леніна* і *партызанская брыгада Багушэўская* (2-га складу).

Да 22 кастр. партызаны вялі бязлітасныя баі з намнога большымі сіламі праціўніка. Двойчы з рук у рукі пераходзіў Лепель (гл. *Лепельскі бой 1943*), 4 сутак ішлі баі за в. Бачэйкава (гл. ў арт. *Бачэйкаўскія баі 1943*). Амаль 3 сутак ішлі баі ў Чашніках (гл. *Чашніцкія баі 1943*). Поўнасцю былі разгромлены 9 фаш. гарнізонаў (у в. Камень, Пачаевічы, Дзямідавічы, Дуброва, Слабодка, Забаенне, Варкі і інш.). 22 кастр. брыгады, выканаўшы задачу, пачалі адыход з раёнаў непасрэднага баявога сутыкнення з праціўнікам і перанеслі гал. напрамак удараў на камунікацыі ворага. У час аперацыі партызаны забілі і паранілі больш за 600 гітлераўцаў, падбілі 5 танкаў, захапілі і знішчылі 37 аўтамашын, спалілі склады са зброяй, боепрыпасамі, абмундзіраваннем і прадуктамі, разбурылі 139 дзотаў, захапілі 39 кулямётаў, 13 мінамётаў, 278 вінтовак і інш. Вял. дапамогу партызанам у ходзе баявых дзеянняў аказалі мясцовыя жыхары. Яны капалі процітанк. равы, рабілі завалы на дарогах, разбуралі дарогі, па якіх фашысты пасылалі падмацаванне акружаным гарнізонам. У выніку Л. а. была сарвана буйная карная аперацыя захопнікаў, не толькі ўтрымана, але і значна пашырана партыз. зона паміж р. Бярэзіна, Зах. Дзвіна і воз. Лукомскае. Камандаванне 3-й танк. арміяй было вымушана адвесці з фронту сілы для абароны сваіх камунікацый у раёне Лепеля. *У. С. Пасэ.*

**ЛЕ́ПЕЛЬСКІ БОЙ 1943**, бой *партызанскай брыгады Лепельскай імя І. В. Сталіна, партызанскай брыгады імя В. І. Чапаева, партызанскай брыгады 2-й Ушацкай імя П. К. Панамарэнкі, партызанскай брыгады Чашніцкай «Дубава», партызанскай брыгады Сенненскай* супраць ням.-фаш. акупантаў у г. Лепель 19—21.10.1943; састаўная частка *Лепельскай аперацыі 1943*. Праводзілася па загаду ЦШПР ад 5.10.1943 «Аб разгроме гарнізона праціўніка і захопе г. Лепель» з мэтай перашкодзіць узмацненню абароны гітлераўцаў на левым флангу групы армій «Цэнтр», дзе намячаўся прарыў сав. войск.

Лепель з'яўляўся гал. апорнай базай у тыле 3-й ням. танк. арміі і быў добра ўмацаваны. У ім размяшчаліся 3 пях. палкі, танк. батальён, 2 арт. і 1 мінамётная батарэі, усяго больш за 2 тыс. гітлераўцаў. Горад акружала густая сетка дзотаў, акопаў, драцяных загарод, усе подступы да яго былі замініраваны. У ноч на 20 кастр. атрады 1-ы, 2-і і 13-ы Лепельскай брыгады імя Сталіна раптоўным ударам змялі перадавыя пасты фашыстаў у в. Забаенне і ўшчыльную наблізіліся да паўд. абарончых умацаванняў горада. Штурмавыя групы прарвалі драцяныя загароды і пачалі падаўляць дзоты, за імі на ўскраіны ўварваліся асн. сілы. На зах. і ўсх. ускраінах у бой уступілі перадавыя атрады астатніх брыгад. На досвітку атрады Лепельскай брыгады прабіліся ў цэнтр горада, але былі контратакаваны прыбыўшым падмацаваннем праціўніка — бронетанк. падраздзяленнямі і былі вымушаны адступіць у раён в. Свяда і Свядзіца.

У ноч на 21 кастр. брыгады зноў рушылі на штурм Лепеля, але ў цэнтры горада праціўніку ўдалося іх спыніць. Фактар раптоўнасці быў страчаны, скончыліся боепрыпасы. Падабраўшы забітых і параненых, партызаны адышлі ў раён в. Мядзвёдаўка, Зацякляссе, Селішча, Верабкі, Свядзіца, заблакіраваўшы варожы гарнізон з У і Пд. *У. С. Пасэ.*

**ЛЕ́ПЕЛЬСКІ КОНТРУДА́Р 1941**, контрудар на Лепельскім напрамку войск 20-й арміі (ген.-лейт. П. А. Курачкін) Зах. фронту ў складзе 5-га (ген.-маёр І. П. Аляксеенка) і 7-га (ген.-лейт. В. І. Вінаградаў) механіз. карпусоў 6—10 ліп. з мэтай разгрому лепельскай групоўкі праціўніка, які наступаў у напрамку на Віцебск. Нанесены з раёна Багушэўска на ПдЗ ад Віцебска ў напрамку на Сянно і Лепель па 3-й танк. групе ням. войск.

Злучэнні 5-га і 7-га карпусоў выйшлі ў раён Сянна, вызвалілі горад, прасунуліся на 30—40 км, разграмілі 2 ням. матарызаваныя палкі, на лепельскім напрамку ў ходзе баёў знішчылі ням. матарызаваную дывізію, да 40 гармат, значную колькасць транспартных сродкаў праціўніка. Найбольш упартыя баі, у т. л. танкавыя (з абодвух бакоў удзельнічала да 1,5 тыс. танкаў), ішлі ў раёне на Пн ад Сянна. Падцягнутыя рэзервы ворага і моцная падтрымка авіяцыі 2-й ням. паветр. арміі вымусілі механіз. карпусы спыніць наступленне. 10 ліп. сав. войскі адышлі ў раён Оршы. Контрударам ворагу прычынены страты, значна паменшана яго ўдарная сіла і тэмп прасоўвання на У. У г. п. Багушэўск Сенненскага р-на ў памяць аб контрудары 20-й арміі пастаўлены помнік.

*Л. У. Чапурнова.*

**ЛЕ́ПЕЛЬСКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты 7.11.1954. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, размешчана ў 2 залах, пл. 84 м², 680 экспанатаў асн. і дапаможнага фондаў. Пачатковаму перыяду вайны прысвечаны матэрыялы аб Лепельскім арт.-мінамётным вучылішчы, *Лепельскім контрудары 1941*, схема «Абарона па р. Ула — Ульянка» і інш. Дзейнасці падполля і партыз. руху ў раёне прысвечаны экспанаты: карта-схема размяшчэння 32 падп. арганізацый і груп, дакументы і фатаграфіі іх арганізатараў і ўдзельнікаў, членаў Лепельскіх падп. РК КП(б)Б і ЛКСМБ, друкарскі станок, шрыфт, наборная каса, падп. газ. *«Калгасная праўда»*, *«Бальшавіцкая трыбуна»*, *«Сцяг сацыялізма»*, лістоўкі-зводкі Саўінфармбюро, макет партыз. зямлянкі, самаробная гармата, інструменты збройнай майстэрні, набор хірургічных інструментаў партыз. шпіталя Лепельскай брыгады імя Сталіна і інш. Экспануюцца фатаграфіі, асабістыя рэчы, баявая зброя Герояў Сав. Саюза Ф. Ф. *Дуброўскага* і У. Е. *Лабанка*, фатаграфіі камандзіраў і камісараў партыз. атрадаў, матэрыялы аб майстрах-збройніках братах А. В. і М. В. Царах, аб партыз. сям'і А. П. Маргевіча, аб партыз. кінааператарах М. Сухавай і А. Ройзман, плакаты, малюнкі і карціны партыз. мастакоў М. Гуціева і М. Абрыньбы, партыз. зброя, схема блакады *Полацка-Лепельскай партызанскай зоны* ў крас.— маі 1944. Прадстаўлены матэрыялы аб вызваленні Лепеля і раёна воінамі 306-й і 357-й стралк. дывізій і 7-й механізаванай брыгады, аб удзеле воінаў-землякоў у абароне Масквы, Ленінграда, Сталінграда, у баях на Каўказе, у Запалляр'і. У зале Перамогі экспануюцца фатаграфіі землякоў — Герояў Сав. Саюза І. М. *Ерашова*, В. А. *Квіцінскага*, М. М. *Тамашэвіча*, І. М. *Туфтава*, П. У. *Ялугіна*, поўнага кавалера ордэна Славы Ф. П. *Занько*.

*В. Я. Ланікіна.*

**ЛЕФЕ́ЎР** (Lefévre) Марсель (17.3.1918, Нармандыя, Францыя — 5.6.1944), Герой Сав. Саюза (1945). Засл. лётчык Францыі. З 1938 у арміі. З 1941 у радах «Змагарнай Францыі» ўдзельнічаў у баях супраць гітлераўцаў. З 28.11.1942 у СССР у складзе авіяэскадрыллі «Нармандыя» (пазней авіяполк *«Нармандыя — Нёман»*). Удзельнік Віцебска-Аршанскай, Усх.-Прускай, Кёнігсбергскай аперацый. Лётчык-інструктар, камандзір эскадрыллі ст. лейтэнант Л. зрабіў 105 баявых вылетаў, правёў 30 паветр. баёў, збіў 11 самалётаў праціўніка. У баі самалёт Л. загарэўся, але лётчык давёў яго да свайго аэрадрома. Памёр ад апёкаў. Навечна залічаны ў спісы эскадрыллі знішчальнага авіяпалка. Яго імем названа вуліца ў г. Лез-Андэлі ў Нармандыі.

**ЛЁЗНА,** гар. пасёлак, цэнтр Лёзненскага р-на на р. Мошна, за 40 км на ПдУ ад Віцебска, чыг. станцыя на лініі Віцебск — Смаленск, аўтадарогамі звязана з Віцебскам, Смаленскам і інш. 4,1 тыс. чал. у 1939. У пач. вайны з 3 па 10 ліп. 1941 каля Л. ў в. Чарнаручча працаваў ЦК КП(б)Б, тут сфарміраваны 29 груп, якія былі адпраўлены за лінію фронту для разгортвання партыз. руху на акупіраванай тэрыторыі. На Пд ад Л. ў абарончых баях з ворагам вызначылася 153-я стралк. дывізія (камандзір палк. М. А. Гаген). З 17 ліп. яна ва ўмо-

вах поўнага акружэння некалькі дзён вяла цяжкія баі з праціўнікам. Потым у раёне Дабрамысля (15 км на ПдЗ ад Л.) прарвала кальцо акружэння, фарсіравала р. Чэрніца, прайшла з баямі па тылах ворага і злучылася з часцямі Чырв. Арміі, захаваўшы арганізацыю і баяздольнасць. 17.7.1941 Л. захоплена ням.-фаш.

М. Лефеўр. В. І. Лівенцаў.



войскамі, якія за час акупацыі знішчылі ў раёне 2901 чал. насельніцтва, у т. л. ў гар. пасёлку 1200 чал. На тэр. раёна дзейнічалі Лёзненскія падп. райкомы КП(б)Б (21.7.1942— кастр. 1943) і ЛКСМБ (15.8.1941— 10.10.1943), партыз. брыгады: 16-я Смаленская, імя А. Ф. Данукалава, Лёзненская, асобныя партыз. атрады «Меч» і А. С. Пятрова (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«Ленінскі сцяг»*. У 1943 фашысты пасёлак ператварылі ў добра ўмацаваны пункт абароны з разгалінаванай сеткай траншэй і акопаў, дзотаў і бліндажоў. Вызвалена 8.10.1943 воінамі 134-й (палк. С. С. Чарнічэнка) і 158-й (ген.-маёр І. С. Бязуглы) стралк. дывізій 84-га стралк. корпуса, 4-й знішчальнай процітанкавай арт. брыгады (палк. М. П. Саўлевіч) 39-й арміі, 47-й механізаванай брыгады (падпалк. Р. Е. Міхайлаў), 28-й гвардз. танк. брыгады (палк. Я. М. Кавалёў) і 1820-га самаходнага арт. палка (маёр І. С. Гара) рухомай механізаванай групы Калінінскага фронту ў ходзе наступлення на віцебскім напрамку. Сав. пехацінцы на працягу трох дзён (6—8 кастр.), штурмуючы кожны дом і кожную агнявую кропку, ва ўзаемадзеянні з танкістамі выбілі ворага з пасёлка і чыг. станцыі. 5 часцям і злучэнням, якія вызначыліся, прысвоена ганаровае найменне «Лёзненскіх» (гл. *Лёзненскія вайсковыя злучэнні і часці).* Працоўныя раёна на будаўніцтва танк. калоны «Вызвалены лёзненец» перадалі 900 тыс. руб. У Л. 2 вайсковых могілак, дзе пахаваны сав. воіны, загінуўшыя ў 1941—43, магіла ахвяр фашызму, на іх устаноўлены помнікі;помнікі вызваліцелям, землякам — работнікам МТС, якія загінулі ў час Айч. вайны.

*М. І. Камінскі.*

**ЛЁЗНЕНСКІЯ ВАЙСКО́ВЫЯ ЗЛУЧЭ́ННІ І ЧА́СЦІ.** За вызваленне раённага цэнтра Лёзна Віцебскай вобл. (8.10.1943) у ходзе наступлення на віцебскім напрамку загадам ВГК ад 10.10.1943 ганаровыя найменні «Лёзненскіх» нададзены 5 злучэнням і часцям Калінінскага фронту.

Часці і злучэнні, якім нададзены ганаровыя найменні «Лёзненскіх»: 158-я стралк. дывізія (ген.-маёр І. С. Бязуглы), 28-я гвардз. танк. брыгада (палк. Я. М. Кавалёў), 4-я знішчальная процітанкавая арт. брыгада (палк. М. П. Саўлевіч), 472-і гаўбічны арт. полк (падпалк. Б. С. Габедашвілі), 114-ы матарызаваны інжынерны батальён (маёр Р. І. Мірзоеў).

*М. І. Камінскі.*

**ЛІ́ВЕНЦАЎ** Віктар Ільіч (н. 21.4.1918, г. п. Давыдаўка Ліскінскага р-на Варонежскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху на тэр. Магілёўскай вобл., парт. і дзярж. дзеяч БССР. Герой Сав. Саюза (1944). Заслужаны дзеяч фізічнай культуры БССР (1971). Чл. КПСС з 1940. Скончыў Гродзенскае ваен.-паліт. вучылішча (1941), Рэсп. парт. школу пры ЦК КПБ (1952), Мінскі пед. ін-т (1955). Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. У жн.— ліст. 1941 адзін з арганізатараў і кіраўнікоў *Бабруйскага партыйна-камсамольскага падполля,* з ліст. 1941 камандзір 752-га партыз. атрада, з лют. 1943 — *партызанскай брыгады 1-й Бабруйскай.* У 1944—50 заг. аддзела, сакратар, 2-і сакратар ЦК ЛКСМБ. З 1958 старшыня К-та па фізічнай культуры і спорце пры СМ БССР. У 1978—86 кіраўнік спраў ЦК КПБ. Канд. у чл. ЦК КПБ у 1949—52, 1960—81, чл. ЦК КПБ у 1981—86. Дэп. ВС БССР з 1959. Аўтар кн. «Партызанскі край» (4 выд., 1983).

**ЛІ́ДА,** горад, цэнтр Лідскага р-на, на р. Лідзея. За 110 км на ПнУ ад Гродна. Вузел чыгунак і аўтамабільных дарог на Гродна, Вільнюс, Маладзечна, Баранавічы. 33,4 тыс. жыхароў у 1939. З 1940 цэнтр раёна. У першыя дні вайны ў раёне Л. ў бой з гітлераўцамі ўступілі злучэнні 21-га стралк. корпуса 13-й арміі Зах. фронту. На рубяжы Воранава — Л. жорсткія баі з танк. калонамі праціўніка вялі 37-я і 17-я стралк. дывізіі, 8-я асобная арт. процітанк. брыгада (палк. І. С. Стральбіцкі). Асабліва ўпарта змагаліся артылерысты. З рубяжа, які быў заняты на р. Дзітва, яны нанеслі сур'ёзны ўрон 12-й танк. дывізіі праціўніка, спалілі 60 машын і ўтрымлівалі свае пазіцыі да 28 чэрвеня. На ПнУ ад Л. (у раёне в. Трабы) геройчна змагаліся воіны 24-й *Самара-Ульянаўскай Бярдзічаўскай жалезнай стралковай дывізіі.* Жорсткія баі сав. воінаў пад. Л. затрымалі варожае наступленне на Мінск. 27.6.1941 Л. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 75 % жылых дамоў, усе прамысловыя, культурна-бытавыя і адм. будынкі, установы аховы здароўя і гандлю, нанеслі гар. гаспадарцы Л. страты ў 405 млн. руб. Акупанты стварылі ў горадзе 3 лагеры смерці, у якіх загубілі больш за 17 тыс. чал. Усяго ў Л. і раёне за час акупацыі знішчылі 25 149 жыхароў. У Л. і на тэр. раёна дзейнічалі *Лідскае партыйна-камсамольскае падполле,* Лідскія міжрайпартцэнтр і міжрайцэнтр ЛКСМБ, падп. гаркомы-райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, Лідскае партыз. злучэнне, а таксама партыз. брыгада імя Варашылава, асобны партыз. атрад «Громава» (гл. адпаведныя артыкулы), якія не ўваходзілі ў яго; выдавалася падп. газ. *«Уперад»*. Вызвалена 9.7.1944 воінамі 5-й гвардз. кав. дывізіі (ген.-маёр М. С. Чапуркін), 6-й гвардз. кав. дывізіі (ген.-маёр П. П. Брыкель), 32-й кав. дывізіі (ген.-маёр І. П. Калюжны) 3-га гвардз. кав. корпуса, часцямі 1-й паветр. арміі і авіяцыі дальняга дзеяння 3-га Бел. фронту ў ходзе *Вільнюскай аперацыі 1944.* 4 часцям і злучэнням, якія вызначыліся пры вызваленні Л., прысвоена ганаровае найменне «Лідскіх» (гл. *Лідскія вайсковыя злучэнні і часці*). У Л. брацкія магілы сав. воінаў, патрызан і падпольшчыкаў, магіла ахвяр фашызму, на якіх пастаўлены помнікі сав. воінам-вызваліцелям, сав. воінам і партызанам, падпольшчыкам, землякам, рабочым і служачым абутковай ф-кі, якія загінулі ў час Вял. Айч. вайны, насыпаны курган Бяссмяротнасці; мемар. дошкі падпольшчыкам. Працуе *Лідскі краязнаўчы музей.*

*Н. У. Капранава.*

**ЛІДСКАЕ ПАРТЫЗА́НСКАЕ ЗЛУЧЭ́ННЕ,** злучэнне партыз. брыгад і атрадаў, якія змагаліся з ням.-фаш. захопнікамі на акупіраванай тэр. Воранаўскага, Іўеўскага, Лідскага, Любчанскага, Навагрудскага і Юрацішкаўскага р-наў. Уваходзіла ў склад абл. *Баранавіцкага партызанскага злучэння.*

Створана ў крас. 1943 паводле рашэння *Баранавіцкага падпольнага абкома КП(б)Б.* Камандзір — 1-ы сакратар Лідскага міжрайпартцэнтра і Лідскага падп. гаркома-райкома КП(б)Б Я. Д. Гапееў. У штаб злучэння ўваходзілі: Б. А. Скуратовіч, Р. Ц. Вараб'ёў, І. Я. Мухартаў, Р. Р. Каган, П. І. Лыскоў, П. І. Сераб ракоў, Г. П. Дзятлава, Ю. Б. Драгун, Ю. І. Тайц. Яднала 6 партыз. брыгад: імя. Аляксандра Неўскага, імя Дзяржынскага, імя Кірава, імя Чапаева, «Уперад», 1-ю Баранавіцкую; акрамя таго, на тэр. Лідскай зоны дзейнічалі асобная брыгада «Няўлоўныя» і атрад «Слаўны», у Навагрудскім р-не размяшчаўся сямейны атрад імя Калініна (гл. адпаведныя артыкулы). На час. злучэння з часцямі Чырв. Арміі 6—11.7.1944 у брыгадах і атрадах партыз. злучэнняў налічвалася 4200 партызан.

*Я. Д. Гапееў.*

**ЛІДСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала са снеж. 1941 да ліп. 1944 у г. Ліда. Арганізатары і кіраўнікі — М. М. Ігнатаў і А. А. Клімко. 35 падпольшчыкаў,

4 групы: на чыг. вузле, кіраўнікі камуніст М. М. Ігнатаў і камсамолец А. А. Клімко, на электрастанцыі чыг. вузла — У. І. Пятроўскі, у авіярамонтных майстэрнях — М. Г. Мурын, у ням. ваен. шпіталі — Г. А. Марцірасаў; 16 чал. дзейнічалі самастойна. У крас.— маі 1943 дзейнасцю падполля кіравалі Лідскія падп. міжрайпартцэнтр і міжрайцэнтр ЛКСМБ, у ліп.— вер. 1943— Лідскія падп. гаркомы-райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ (гл. адпаведныя артыкулы).

Падпольшчыкі распаўсюджвалі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, рабілі диверсіі: спалілі цэх авіямайстэрняў (Мурын і Е. С. Капачэль), сапсавалі матор дынамамашыны, учынілі выбух на электрастанцыі, знішчылі некалькі аўтамашын, няякасна рамантавалі паравозы. Наладзіўшы сувязь з партыз. атрадамі «Іскра», «Балтыец», імя Варашылава, перапраўлялі ім зброю, медыкаменты, друкарскі шрыфт, перадавалі звесткі разведкі.

У барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў загінулі: Л. А. і П. А. Авяр'янавы, Р. М. Астрэйка, П. І. Булгакава, М. В. Валіцкая, А. В. Драздова, М. М. Ігнатаў, М. І. Кастраміна, А. Г. і Г. П. Качан, А. А. і А. С. Клімко, Л. Крыжаноўская, З. Ф. і Л. Ф. Кудачовы, М. Г. Мурын, М. К. Наказных, Г. В. Суворава, К. М. Федарук, Л. Ф. Халевінскі, А. П. Чарнаскутаў. У Лідзе на ўшанаванне памяці падпольшчыкаў устаноўлены помнікі і мемар. дошкі. *А. Ф. Маркава.*

**ЛІДСКІ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ.** Адкрыты 24.4.1959. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, размешчана на пл. 54 м$^2$, 1911 экспанатаў асн. фонду, у экспазіцыі — 418. Прадстаўлены матэрыялы пра абарончыя баі ў раёне г. Ліда, пра воінаў 37-й і 17-й стралк. дывізій, 8-й асобнай процітанк. брыгады, 24-й Самара-Ульянаўскай і 56-й стралк. дывізій (фатаграфіі ген.-маёра К. М. Галіцкага, ген.-лейт. І. С. Стральбіцкага, зброя, асабістыя рэчы, узбраенне, фатаграфіі загінуўшых воінаў 56-й дывізіі). Экспануюцца матэрыялы аб разгортванні падполля і партыз. руху ў раёне: фатаграфіі, асабістыя рэчы, узнагароды членаў *Лідскага партыйна-камсамольскага падполля,* партыз. зброя, лістоўкі, падп. газ. *«Уперад»,* фатаграфіі сакратароў падп. гаркомаў КП(б)Б Я. Д. *Гапеева,* ЛКСМБ Г. П. Дзятлавай, камандзіра партыз. брыгады імя Кірава С. П. *Васільева,* камандзіраў партыз. атрадаў А. А. Каннова, І. А. Пралыгіна, В. І. Панчанкава і інш. асабістыя рэчы, дакументы, узнагароды ўдзельнікаў партыз. руху і падполля, мед. інструменты партыз. урачоў. Расказваецца аб злачынствах ням.-фаш. захопнікаў у горадзе і раёне. Матэрыялы аб вызваленні Ліды і раёна воінамі 5-й, 6-й гвардз. і 32-й кав. дывізій 3-га гвардз. кав. корпуса, аб вайсковых часцях і злучэннях, якія атрымалі ганаровае найменне «Лідскіх» (фатаграфіі Героя Сав. Саюза — ганаровага грамадзяніна г. Ліда М. С. *Аслікоўскага,* П. П. Брыкеля, камандзіраў дывізій І. П. Калюжнага, М. С. Чапуркіна, дакументы, асабістыя рэчы, узнагароды, зброя, франтавыя пісьмы, загінуўшых воінаў, карта-схема атакі 86-га гвардз. кав. палка і інш.), аб воінах-земляках. Экспануюцца дыярамы «Бой каля в. Гуды Лідскага раёна» (маст. М. Апіёк), «Канспіратыўны сход падпольшчыкаў у доме А. А. Клімко», «Подзвіг Героя Сав. Саюза С. І. Балгарына» (маст. В. Ярмонін), «Захоп варожага эшалона партызанамі» (маст. А. Пуцейка), карціна «Нарада кіраўніцтва Лідскай партызанскай зоны» (маст. М. Меранкоў) і інш. *І. Ф. Цімашэўскі.*

**ЛІДСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ ГАРКО́М-РАЙКО́М КП(б)Б.** Дзейнічаў з вер. 1943 да 7.7.1944 у Лідскім р-не і г. Ліда пад кіраўніцтвам *Баранавіцкага падпольнага абкома КП(б)Б.* Каардынаваў і накіроўваў дзейнасць падпольшчыкаў і партызан раёна, у т. л. *Лідскага партыйна-камсамольскага падполля.* Стварыў агітбрыгаду мастацкай самадзейнасці, якая ў лют.— ліп. 1944 падрыхтавала 19 пастановак. Сакратар гаркома-райкома Я. Д. *Гапееў,* члены: П. І. Лыскоў, П. В. Хіжняк (да 28.11.1943), С. М. *Кандакоў* (з 28.11.1943), Р. С. Цімафееў (з 18.11.1943), Ф. М. Белавусаў (11.12. 1943—9.3.1944). Друкаваны орган — газ. *«Уперад»;* выдаваў таксама лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, звароты. *Т. М. Антановіч.*

**ЛІДСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ ГАРКО́М-РАЙКО́М ЛКСМБ.** Дзейнічаў з 1.7.1943 да 7.7.1944 пад кіраўніцтвам *Баранавіцкага падпольнага абкома ЛКСМБ* і *Лідскага падпольнага міжрайцэнтра ЛКСМБ* (да 19.12.1943). Кіраваў камсам. падполлем у г. Ліда (гл. *Лідскае партыйна-камсамольскае падполле),* пярвічнымі камсам. арг-цыямі ў партыз. фарміраваннях і падп. тэрытарыяльнымі ў Лідскім р-не. Сакратары гаркома-райкома: В. П. Дударaў (да 1.11.1943), Г. П. Дзятлава (з 1.11.1943), В. І. Шубін (сакратар па прапагандзе, з 1.1 да 3.3.1944, загінуў), М. У. Нячай (сакратар па прапагандзе, з 18.3. 1944), члены: Н. С. Бейзарава (да 30.12.1943), І. В. Туруткін (да 1.1.1944), Г. А. Дзянішчык (з 1.1. 1944), П. Я. Слядкоў (з 1.1.1944), І. Дз. Ваўчэцкі (з 17.1.1944). Базіраваўся пры партыз. брыгадзе імя Кірава ў Лідскім р-не.

Да стварэння падп. гаркома-райкома камсам. работай у Лідскім р-не і Лідзе кіравалі Баранавіцкі падп. абком ЛКСМБ, *Лідскі падпольны міжрайпартцэнтр,* Лідскі міжрайцэнтр ЛКСМБ, камісары і іх намочнікі па камсамолу партыз. атрадаў «Іскра» і «Кастрычніцкі» (з ліп. 1943 у партыз. брыгадзе імя Кірава). Арганізатарамі камсам. работы ў раёне да ліп. 1943 былі камуністы Я. Д. *Гапееў,* А. Ц. Буталенка, А. І. Дзееў, С. М. Кандакоў, камсамольцы Дудараў, Нячай, Слядкоў, Шубін. Да ліп. 1943 былі створаны пярвічныя камсам. арг-цыі ў партыз. атрадах, якія дзейнічалі на тэр. раёна, падп. маладзёжныя арг-цыі ў Лідзе і інш. населеных пунктах. *Р. М. Шавяла.*

**ЛІДСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ МІЖРАЙПАРТЦЭНТР.** Зацверджаны ЦК КП(б)Б 19.3.1943. Дзейнічаў з 25.4 да 19.12. 1943 пад кіраўніцтвам *Баранавіцкага падпольнага абкома КП(б)Б.* Узначальваў парт. падполле і партыз. рух на тэр. Воранаўскага, Іўеўскага, Лідскага, Любчанскага, Навагрудскага, Радунскага і Юрацішкаўскага р-наў і ў г. Ліда. Састаў міжрайпартцэнтра: Я. Д. *Гапееў* (кіраўнік), памочнікі па ваен.-аператыўнай рабоце Р. Ц. *Вараб'ёў,* П. І. *Серабракоў* (з 24.10.1943), па разведцы і контрразведцы Б. А. Скуратовіч, П. І. Лыскоў (з. 22.9.1943), па камсам. рабоце І. Я. Мухартаў, Г. П. Дзятлава (з кастр. 1943). У крас.— маі 1943 стварыў *Лідскае партызанскае злучэнне.*

Пасля выканання ўскладзеных на яго функцый па стварэнню і ўмацаванню Іўеўскага, Любчанскага, Навагрудскага, Радунскага, Юрацішкаўскага падп. райкомаў і *Лідскага падпольнага гаркома-райкома КП(б)Б* ліквідаваны. Падп. райкомамі стаў кіраваць непасрэдна Баранавіцкі падп. абком КП(б)Б.



Помнік у гонар **Лідскага падпольнага міжрайпартцэнтра** і партызанскіх брыгад у в. Бакшты Іўеўскага раёна.

У гонар падп. міжрайпартцэнтра і партыз. брыгад у в. Бакшты Іўеў-

скага р-на ў 1969 пастаўлены абеліск. *А. М. Літвін.*

**ЛІДСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ МІЖРАЙЦЭ́НТР ЛКСМБ.** Дзейнічаў з 20.5. да 19.12. 1943 пад кіраўніцтвам *Баранавіцкага падпольнага абкома ЛКСМБ* і *Лідскага падпольнага міжрайпартцэнтра.* Узначальваў камсам. падполле на тэр. Воранаўскага, Іўеўскага, Лідскага, Любчанскага, Навагрудскага, Радунскага, Юрацішкаўскага р-наў і г. Ліда. Кіраўнікі міжрайцэнтра ЛКСМБ І. Я. Мухартаў (да 30.10. 1943, пазней сакратар Воранаўскага і Юрацішкаўскага падп. райкомаў ЛКСМБ), Г. П. Дзятлава (з 30.10 да 9.12.1943, з 1.11.1943 сакратар *Лідскага падпольнага гаркома-райкома ЛКСМБ).* Дыслацыраваўся ў Лідскім р-не. Ліквідаваны пасля выканання ўскладзеных на яго функцый па стварэнню падп. Воранаўскага і Радунскага райкомаў, Лідскага гаркома-райкома, умацаванню гэтых, а таксама раней створаных Іўеўскага, Любчанскага, Навагрудскага і Юрацішкаўскага райкомаў ЛКСМБ. Пасля ліквідацыі міжрайцэнтра Дзятлава працавала ўпаўнаважаным Баранавіцкага падп. абкома ЛКСМБ па Лідскай зоне. *Р. М. Шавяла.*

**ЛІДСКІЯ ВАЙСКО́ВЫЯ ЗЛУЧЭ́ННЕ І ЧА́СЦІ.** За вызваленне г. Ліда (9.7. 1944) у ходзе *Вільнюскай аперацыі 1944* загадам ВГК ад 25.7.1944 ганаровыя найменні «Лідскіх» нададзены 1 злучэнню і 3 часцям 3-га Бел. фронту.

Часці і злучэнні, якім нададзены ганаровыя найменні «Лідскіх»: 307-я штурмавая авіяц. дывізія (палк. А. У. Кажамякін), 17-ы гвардз. кав. полк (палк. М. Ц. Шаўчэнка), 23-і (падпалк. А. Ц. Бондар) і 86-ы (падпалк. А. Ф. Труханаў) кав. палкі. Войскам, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Ліды, загадам ВГК ад 9.7.1944 аб'яўлена падзяка, у Маскве дадзены салют 12 арт. залпамі з 124 гармат. *М. І. Камінскі.*

**ЛІЗЮКО́ВЫ,** удзельнікі Вял. Айч. вайны, браты. Нарадзіліся ў Гомелі.

Аляксандр Ільіч (23.3.1900—25.7.1942), ген.-маёр (1942), Герой Сав. Саюза (1941). Чл. КПСС з 1919. У Чырв. Арміі з 1919. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1927). У 1927—31 і з 1940 на выкладчыцкай рабоце. З чэрв. 1941 на Зах., Бранскім франтах: нам. камандзіра танк. дывізіі, камандзір мотастралк. дывізіі, стралк. корпуса, камандуючы танк. арміяй. Вызначыўся ў баях пад Барысавам і на Салаўёвай пераправе цераз Дняпро ў 1941. Удзельнік абароны Масквы. Загінуў у баі. Пахаваны ў с. Мядзведжае Семілуцкага р-на Варонежскай вобл. Аўтар кніг па ваен. справе. Імя Л. прысвоена Саратаўскаму ваен. вучылішчу, імем героя названа вуліца ў Варонежы.


А. І. Лізюкоў.


П. І. Лізюкоў.


К. Лінке.


Г. Лінке.


Р. М. Лінькоў.


А. Я. Ліпуноў.

Пётр Ільіч (2.1.1909—30.1. 1945), палкоўнік (1943), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1943. У Чырв. Арміі з 1927. З чэрв. 1941 на Зах., Ленінградскім, 3-м Бел. франтах: камандзір арт. дывізіёна, знішчальна-процітанк. арт. палка, брыгады. Вызначыўся ў баі ва Усх. Прусіі. 30.1. 1945 брыгада на чале з Л. адбівала жорсткія контратакі варожых танкаў. Загінуў у гэтым баі. Пахаваны ў пас. Ушакова Калінінградскай вобл. Навечна занесены ў спісы арт. палка, яго імем названы рыбалоўны траўлер. Імем братоў Л. названы вуліцы ў Гомелі і Чачэрску, у в. Нісімкавічы Чачэрскага р-на пастаўлены помнік, у Гомелі ўстаноўлена мемар. дошка.

Яўген Ільіч (1899—7.7.1944), адзін з кіраўнікоў партыз. руху на тэр. Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1944. У 1918—32 у Чырв. Арміі, удзельнік грамадз. вайны. У пач. Айч. вайны добраахвотнікам пайшоў на фронт. Пасля ранення дэмабілізаваны. У 1942 накіраваны на акупіраваную тэр. Мінскай вобл., быў нач. штаба, камандзірам партыз. атрада. Загінуў у баі, пахаваны ў в. Наваполле Пухавіцкага р-на.

**ЛІН** Раман Лук'янавіч (23.1.1898, в. Асянское Лельчыцкага р-на —28.12. 1968), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Палескай вобл. Чл. КПСС з 1926. Удзельнік грамадз. вайны. З 1924 на сав. і адм. рабоце ў Лельчыцкім р-не. У партызанах з ліст. 1942: камісар атрада, у вер. 1943— студз. 1944 *партызанскай брыгады Лельчыцкай,* адначасова ў сак. 1943 — студз. 1944 сакратар Лельчыцкага падп. РК КП(б)Б. Пасля вайны на адм. рабоце.

**ЛІНКЕ** Карл (10.1.1900, г. Градэк, цяпер ЧССР —16.5.1961), удзельнік партыз. руху на Беларусі, дзярж. і ваен. дзеяч ГДР. У 1915—19 чл. Саюза сацыяліст. рабочай моладзі Аўстрыі, у 1923—39 чл. КПЧ, у 1930—51— ВКП(б), з 1951 —САПГ. У 1914—18 і 1919—23 горнарабочы. У 1918 у арміі, удзельнік 1-й сусв. вайны, да 1919 быў у палоне ў Італіі. У 1924—29 рабочы-тэкстыльшчык. З 1930 жыў і працаваў у СССР, у 1930—41 рабочы, майстар на тэкстыльнай ф-цы ў Маскве, супрацоўнік Наркамата лёгкай прамысловасці СССР, Гандлёвай палаты. У 1941 добраахвотнікам уступіў у Чырв. Армію, удзельнік Маскоўскай бітвы 1941—42, у 1942—44 ваяваў на тэр. Беларусі, камісар *партызанскага атрада «Храбрацы»* (камандзір А. М. *Рабцэвіч).* Удзельнік славацкага нац. паўстання 1944. У 1946—49 майстар на тэкстыльным прадпрыемстве ў Градэке. З 1950 перакладчык у Берліне. З 1951 на адказных пасадах ва ўрадзе, нар. паліцыі, Нацыянальнай нар. арміі ГДР. Палкоўнік. З 1957 на пенсіі. На тэр. Беларусі змагаўся супраць фашызму яго сын — Гейнц Лінке (1922—44), быў разведчыкам партыз. атрада, загінуў 22.1.1944, пахаваны ў брацкай магіле ў в. Вялікаполле Чэрвеньскага р-на.

*І. С. Барысаў, У. М. Якубоўскі.*

**ЛІНЬКО́Ў** Рыгор Мацвеевіч (4.2.1899, с. Васільеўка Акцябрскага р-на Арэнбургскай вобл.—17.12.1961), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Брэсцкай і Баранавіцкай абл., Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. электратэхн. акадэмію (1938). З вер. 1941 камандзір дыверсійна-разведвальнага партыз. атрада, які ў 1941—42 зрабіў 600-кіламетровы рэйд па тылах праціўніка ў паўд. раёнах Беларусі. З мая 1943 камандзір дыверсійна-разведвальнай групы, якая дзейнічала ў раёне Брэст — Баранавічы — Ваўкавыск, потым на тэр. Польшчы і Чэхаславакіі. Да 1946 у Сав.

Арміі, палкоўнік-інжынер. Аўтар кн. «Вайна ў тыле ворага» (1959).

**ЛІПСКІ** Антон Іванавіч (н. 30. 1.1912, в. Баркалабава Быхаўскага р-на), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1944. У 1939—42 у органах НКУС. У партызанах з чэрв. 1942: камандзір аддзялення, узвода, атрада, у кастр. 1943— чэрв. 1944 *партызанскага палка 122-га «За Радзіму»*. З 1944 у органах МУС БССР, у 1965—78 на гасп. рабоце ў Магілёве.

**ЛІПУНОЎ** Аляксандр Якаўлевіч (25.2. 1906, в. Хвойня Петрыкаўскага р-на —21.8.1962), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1944. Скончыў Свярдлоўскі горны тэхнікум (1937). З ліп. 1943 на Зах., 3-м і 2-м Прыбалт., 2-м і 1-м Бел. франтах. Пам. камандзіра ўзвода разведкі старшына Л. вызначыўся пры вызваленні Польшчы. 25.1.1945 з групай разведаў у тыле ворага абарончыя ўмацаванні, захапіў 2 «языкоў». З 14.1 да 5.2.1945 з групай разведчыкаў выявіў размяшчэнне праціўніка і яго агнявых сродкаў, 5 разоў уступаў у бой, асабіста знішчыў 40 і захапіў у палон 35 гітлераўцаў. Пасля вайны працаваў геолагам. Яго імем названа вуліца ў г. Петрыкаў.

**ЛІСАКОВІЧ** Іван Якаўлевіч (н. 24.6. 1905, в. Каменка Уздзенскага р-на), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Мінскай і Беластоцкай абл. Чл. КПСС з 1929. Скончыў Вышэйшую камуніст. с.-г. школу Беларусі (1935). У 1936—41 інструктар Брагінскага, сакратар Парыцкага РК КП(б)Б. З пач. вайны на фронце. З кастр. 1941 член *Уздзенскага партыйнага падполля*. З кастр. 1942 у партызанах: палітрук роты ў 300-й партыз. брыгадзе імя Варашылава, асобна дзейных атрадах «Баявы» імя Дунаева, імя Жукава. Адначасова з 12.3.1944 сакратар Саколкаўскага падп. РК КП(б)Б, з 5.5 да 19.7.1944 сакратар *Аўгустоўскага падпольнага міжрайкома КП(б)Б*. Пасля вайны на гасп. рабоце.

**ЛІСАЎ** Іван Іванавіч (н. 25.5.1912, Віцебск), ген.-лейт. (1965). Канд. гіст. навук (1973), дацэнт (1979). Чл. КПСС з 1941. У Чырв. Арміі з 1929. Скончыў ваен. акадэміі імя Фрунзе (1941), Генштаба (1951). З 1939 у паветрана-дэсантных войсках. З вер. 1943 нач. штаба паветрана-дэсантнай брыгады, стралк. палка на Карэльскім фронце. Пасля вайны да 1974 на камандных пасадах у Сав. Арміі. Аўтар кніг «З паветра — ў бой» (1961), «Дэсантнікі» (1968), «Зямля — неба — зямля» (1973) і інш.

**ЛІСНЕЎСКІ** Віктар Пятровіч (н. 8.1. 1908, в. Чарцёж Жлобінскага р-на), поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПСС з 1944. На фронце з 1941. Камандзір стралк. аддзялення мал. сяржант Л. вызначыўся ў баях на тэр. Украіны, Польшчы і Германіі. 24.12.1943 пад агнём праціўніка ліквідаваў 4 пашкоджанні тэлефоннай лініі; 21.7.1944 адзін з першых фарсіраваў Зах. Буг, адбіваючы контратакі, уварваўся ў варожую траншэю і закідаў гранатамі кулямётны разлік; 16.4.1945 пры прарыве абароны праціўніка каля г. Лебус з аддзяленнем захапіў варожыя траншэі, знішчыў 6 і ўзяў у палон 5 гітлераўцаў.

**ЛІСОВІЧ** Фёдар Іванавіч (14.8.1916, в. Гулевічы Жыткавіцкага р-на — 30.8.1972), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Пінскай вобл. Чл. КПСС з 1940. З 1933 на сав. і адм. рабоце. У партызанах з ліп. 1941: радавы, з ліп. 1942 камісар атрада, з ліп. 1943 камісар, у маі — ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады імя С. М. Кірава*, адначасова ў канцы 1942— ліп. 1944 сакратар Лунінецкага падп. РК КП(б)Б. Пасля вайны на сав. рабоце ў Пінскай і Брэсцкай абл. У Лунінцы яго імем названа вуліца.

**ЛІСОЎСКІ** Аляксандр Іосіфавіч (4.11. 1910, в. Пяцюлева Верхнядзвінскага р-на —21.1.1971), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1940. З 1928 на гасп., з 1934 на сав. рабоце ў Дрысенскім і Міёрскім р-нах. У партызанах з ліп. 1941: камандзір групы, камісар атрада, у ліст. 1942— ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады 1-й Дрысенскай*, адначасова чл., у студз.— ліп. 1944 сакратар Дрысенскага падп. РК КП(б)Б. Да 1970 на парт. і гасп. рабоце ў Мінску.

**ЛІТАВЕЦ**, вёска на тэр. Дзяржынскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 7 км на З ад в. Самадураўшчына (з 1964 Радзіма) Дабрынёўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 208 чал. 14.1.1943, у час карнай аперацыі *«Якаб»*, фашысты загубілі 196 жыхароў, у т. л. 58 дзяцей, вёску (42 двары) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1956 на магіле ахвяр фашызму пастаўлены помнік. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь*.

У 1986 на месцы спаленай вёскі пабудаваны мемар. комплекс Літавец (скульпт. С. Гарбунова, арх. В. Яўсееў і В. Здасюк, мастацтвазнавец У. Пракапцоў, тэкст прысвячэнне паэта Р. Барадуліна; узведзены на грамадскіх пачатках, удзельнічалі камсамольцы раёна). Адкрыты ў ліп. 1987. На лясной паляне пастаўлены ўязны знак, побач — бэлькі, узнятыя над зямлёй, сімвалізуюць рэшткі хаты, знішчанай акупантамі. На адной з бэлек — назва вёскі, на другой — надпіс, які расказвае аб трагедыі. Пракладзеная «вуліца» вядзе да цэнтра б. вёскі — да цэнтр. барэльефа, дзе паказана мірнае жыццё: стары пляце кошык, маці з хлопчыкам, які ўсміхаецца і робіць першыя свае крокі ў жыцці, на іх глядзяць дзеці, якія ляжаць на печы. Побач — разбітыя вароты, ідуць фашысты, вось-вось абарвецца жыццё мірнай вёскі. Каля спаленых дамоў пасаджаны дрэвы — сімвалы жыцця, але на адным з іх буслінае гняздо без птушак — напамінак аб трагічным лёсе вёскі. *М. І. Камінскі.*

**ЛІТВІНАЎ** Яўмен Уласавіч (1918, в. Іванаўка Гомельскага р-на — 17.11. 1941), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсамольска-маладзёжнага падполля ў Гомельскай вобл. З 1940 на камсам. рабоце. З 19.8.1941 сакратар *Гомельскага падпольнага абкома ЛКСМБ*. Закатаваны ням.-фаш. захопнікамі.

**ЛІЦВЯКОВА**, вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1,5 км на Пд ад в. Рудня Дзёрнавіцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жылі 63 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»*, фашысты загубілі 46 жыхароў, вёску (18 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь*.

**ЛОБАРАЎ** Васіль Данілавіч (н. 19.8. 1910, в. Заходы Клімавіцкага р-на), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1932. У пач. Айч. вайны на фронце. У партызанах з кастр. 1941: камандзір групы, з чэрв. 1942 камісар атрада, у жн. 1942— студз. 1943 камісар *партызанскай брыгады дыверсійнай Беларускай імя У. І. Леніна*. У вер. 1943—63 на парт., журналісцкай і сав. рабоце ў Клімавіцкім р-не.

**ЛОГІНАЎ** Яўген Фёдаравіч (23.10. 1907, Хельсінкі —7.10.1970), маршал авіяцыі (1967). Чл. КПСС з 1939. У Чырв. Арміі з 1926. Скончыў ваенна-тэарэтычную школу ВПС (1926), ваен. школу лётчыкаў (1928), Ваен. акадэмію Генштаба (1949). У Айч. вайну камандзір бамбардзіровачнай авіядывізіі, камандзір 2-га авіяц. корпуса далёкага дзеяння. Удзельнік Сталінградскай, Курскай бітваў, Берлінскай аперацыі. У час *Беларускай аперацыі 1944* вызваляў Бабруйск, Барысаў, Мінск. Пасля вайны на камандных пасадах у Сав. Арміі. З 1959— нач. Гал. ўпраўлення Грамадз. паветр. флоту, з 1964 міністр Грамадз. авіяцыі СССР. Дэп. ВС СССР у 1966—70. Канд. у чл. ЦК КПСС з 1966, чл. ЦК КПСС з 1967.

**ЛОЕЎ**, гар. пасёлак, цэнтр Лоеўскага р-на, прыстань на р. Дняпро ў вусці р. Сож. За 86 км на Пд ад Гомеля, 60 км ад чыг. ст. Рэчыца на лініі Гомель — Калінкавічы. Аўтадарогамі звязаны з Брагінам і Рэчыцай. У ліп.— жн. 1941 каля Л. праходзіла лінія фронту, у жн. 1941 абарону ў гэтым раёне трымалі часці 3-й арміі Цэнтр. фронту. Акупіраваны 26.8. 1941 ням.-фаш. захопнікамі, якія ў Л. і раёне забілі 1635 чал. У гар. пасёлку і раёне дзейнічалі Лоеўскія падп. райкомы КП(б)Б (26.8.1941— 24.11.1943) і ЛКСМБ (1.11.1942— 24.11.1943), партыз. брыгады Лоеўская «За Радзіму», «Бальшавік» (гл. адпаведныя артыкулы), выходзіла падп. газ. *«Наша перамога»*. У час

рэйду з Бранскіх лясоў на Правабярэжную Украіну ў ноч на 7.11.1942 партызаны злучэнняў С. А. Каўпака і А. М. Сабурава разам з бел. партызанамі захапілі пераправу цераз Дняпро каля Л., разграмілі ням.-фаш. гарнізон у Л. і занялі пасёлак; 7 ліст. адбыліся мітынг і парад партызан у гонар 25-й гадавіны Вял. Кастрычматы і падзячныя пісьмы вайсковым злучэнням і часцям, падп. і франтавыя газеты, фатаграфіі, асабістыя рэчы, дакументы, узнагароды воінаў, у т. л. камандуючых фронтам К. К. *Ракасоўскага,* 65-й арміяй П. І. *Батава* і інш., матэрыялы аб Героях Сав. Саюза, якія загінулі пры вызваленні раёна ад ням.-фаш. захопнікаў, П. А. Акуцыёнку, М. Р. Апарыне, Е. Дз. Волкаве, Б. А. Царыкаве і інш., стралк. зброя, кнігі з дароўнымі у 600-м партыз. атрадзе (гл. *Партызанскі полк 600-ы).* 18.7.1943 каля в. Антонава Буда Бялыніцкага р-на на групу партыз. дазору, у якой быў Л., напалі карнікі. У няроўным баі Л. апошняй гранатай падарваў сябе і гітлераўцаў, якія яго акружылі. На магіле Л. каля в. Антонава Буда — абеліск. Яго імем названы вуліцы ў Магілёве і г. п. Бялынічы, дзе на алеі Герояў пастаўлены бюст. У школе № 2 Бялыніч створаны музей героя.

В. П. Ліснеўскі. Л. Дз. Лорчанка. А. А. Лосік. Дз. І. Лугаўской. М. П. Лугоўскі. А. А. Лузін.



ніцкай сацыяліст. рэвалюцыі. 8—9 ліст. ішлі жорсткія баі з гітлераўцамі, якія падцягнулі рэзервы і намерваліся выбіць партызан з гар. пасёлка, скінуць іх у Дняпро. У час бою 8-ы партыз. батальён здзейсніў абходны манеўр і з Пд ад Л. нанёс з тылу раптоўны ўдар па ворагу, які наступаў на Л. За 2 дні баёў праціўнік страціў 14 машын, 5 бронемашын, больш за 200 салдат і афіцэраў забітымі і параненымі і вымушаны быў адступіць. Насельніцтва Л. дапамагло укр. партызанам пераправіцца на правы бераг Дняпра, многія жыхары гар. пасёлка папоўнілі рады партызан. Вызвалены 17.10.1943 воінамі 69-й (ген.-маёр І. А. Кузаўкоў), 106-й (палк. М. М. Уласаў), 193-й (палк. А. Р. Фралянкоў), 246-й (палк. М. Р. Фядосенка) стралк. дывізій, 115-й асобнай стралк. брыгады (ген.-маёр І. І. Санкоўскі) 65-й арміі Цэнтр. фронту ў ходзе *бітвы за Дняпро 1943* і партызанамі брыгады Лоеўскай «За Радзіму» (камандзір Р. І. Сінякоў). У Л. брацкія магілы сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму, на якіх пастаўлены помнікі; помнік у гонар сав. воінаў і партызан. Працуе *Лоеўскі музей бітвы за Дняпро.* *В. С. Паваліхіна.*

**ЛО́ЕЎСКІ МУЗЕ́Й БІТВЫ ЗА ДНЯПРО́,** філіял *Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.* Адкрыты ў маі 1985. Экспазіцыя размяшчаецца ў 2 залах, пл. 170 м², больш за 2 тыс. экспанатаў, з іх 1125 у экспазіцыі. Расказваецца аб фарсіраванні Дняпра і захопе плацдармаў у Брагінскім, Камарынскім і Лоеўскім р-нах войскамі 13-й, 61-й і 65-й армій Цэнтр. (з 20.10.1943 Беларускага) фронту. Экспануюцца лістоўкі, граматы і падзячныя пісьмы ... надпісамі аўтараў і інш. Прадстаўлены матэрыялы аб узнікненні і разгортванні падполля і партыз. руху ў раёне, аб узаемадзеянні партызан з часцямі Чырвонай Арміі пры фарсіраванні Дняпра, аб удзеле ўраджэнцаў раёна ў Вял. Айч. вайне (фатаграфіі, дакументы, асабістыя рэчы сакратара Гомельскага падп. абкома ЛКСМБ А. Дз. *Рудака,* камандзіра злучэння партыз. атрадаў Сумскай вобл. С. А. *Каўпака,* партызан Лоеўскай брыгады «За Радзіму», землякоў Герояў Сав. Саюза К. П. *Грыба,* А. П. *Карпенкі,* А. В. *Казлова,* Дз. К. *Марозава,* Р. С. *Пінчука,* узнагароды землякоў — удзельнікаў Вял. Айч. вайны і інш.). Экспануецца скульптура Ракасоўскага (М. Рыжанкоў). Працягам экспазіцыі з'яўляецца адкрытая пляцоўка на беразе Дняпра, дзе прадстаўлены баявая тэхніка і сродкі пераправы. *В. І. Краўцова.*

**ЛО́ЗКІ,** вёска на тэр. Калінкавіцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася ў Нахаўскім сельсавеце. Перад вайной у ёй жыло 480 чал. 22.6.1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 476 жыхароў, вёску (125 двароў) спалілі. Пасля вайны адрадзілася. У 1969 на магіле ахвяр фашызму пастаўлены помнік. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь* як аднаўленая вёска.

**ЛО́РЧАНКА** Леанід Дзмітрыевіч (24.7.1923, Магілёў — 18.7.1943), Герой Сав. Саюза (1965). Чл. ВЛКСМ. На пач. вайны ў нар. апалчэнні, потым член падп. групы *Магілёўскага партыйна-камсамольскага падполля.* Пісаў і распаўсюджваў лістоўкі, удзельнічаў у дыверсіях, збіраў і пераpraўляў партызанам зброю. З крас. 1943 ...

**ЛО́СІК** Алег Аляксандравіч (н. 4.12.1915, г. Ярцава), Герой Сав. Саюза (1944), маршал бранятанк. войск (1975). Прафесар (1972). Чл. КПСС з 1941. Скончыў Ваен. акадэмію Генштаба (1950). У Чырв. Арміі з 1935. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну з 1941 на Паўд.-Зах., Сталінградскім, Данскім, Зах., 3-м Бел. франтах. Вызначыўся ў баях за вызваленне Мінска. 4-я гвардзейская танк. брыгада пад камандаваннем палкоўніка Л. 2.7.1944 зламала супраціўленне праціўніка ў раёне в. Гарадзішча і раніцай 3.7.1944 адна з першых уступіла ў Мінск. Пасля вайны на адказных пасадах у Сав. Арміі; выкладчык Ваен. акадэміі Генштаба, з 1967 камандуючы войскамі ваен. акругі. З 1969 нач. Ваен. акадэміі бранятанк. войск імя Маліноўскага. З 1987 ваен. інспектар-саветнік Групы генеральных інспектараў Міністэрства абароны СССР.

**ЛУГАЎСКО́Й** Дзмітрый Іванавіч (н. 17.11.1918, Віцебск). Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1956. Скончыў Віцебскі аэраклуб (1938), Чкалаўскую школу пілотаў (1941). З 1942 на Каўказскім, Паўн.-Каўказскім, 2-м Прыбалт. франтах. Камандзір эскадрыллі штурмавікоў капітан Л. зрабіў 130 баявых вылетаў, знішчыў 10 танкаў, 17 зенітна-арт., кулямётных і мінамётных кропак, 26 арт. гармат і бронемашын, 80 аўтамашын з войскамі і грузам, 6 цыстэрнаў з гаручым, 4 пераправы, 4 бліндажы. Да 1959 у Сав. Арміі, палкоўнік. Жыве ў Мінску.

**ЛУГО́ЎСКІ** Мікалай Пятровіч (14.12.1911, в. Равуча Талачынскага р-на — 25.6.1944), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1942. На фронце з 1941.

Вызначыўся пры вызваленні Віцебскай вобл. 23.6.1944 стралк. батальён пад камандаваннем капітана Л. прарваў абарону ворага, вызваліў вёскі Гуркі, Ермакі, выйшаў у тыл праціўніка, адбіў 9 контратак, вызваліў вёскі Крупчына, Засіннікі. 24.6.1944 батальён фарсіраваў Зах. Дзвіну, захапіў плацдарм і адбіваў контратакі. Загінуў у баі. Яго імем названа вуліца ў г. п. Бешанковічы, дзе ён пахаваны, Друцкая школа ў Талачынскім р-не, на будынку школы — мемар. дошка.

**ЛУЗГІН** Аляксей Андрэевіч (1.2.1920, в. Загараддзе Талачынскага р-на — 10.1.1977), Герой Сав. Саюза (1946). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Тамбоўскую ваен. авіяц. школу пілотаў (1941). З 1943 на Цэнтр., 1-м Укр. франтах. Камандзір звяна разведвальнага авіяпалка лейтэнант Л. зрабіў 106 баявых вылетаў, правёў 32 паветр. баі, засняў 160 фільмаў, з якіх зманціравана 275 фотасхем і 450 фотапланшэтаў. Паводле звестак яго разведкі сав. бамбардзіроўшчыкі знішчылі на аэрадроме ў Палтаве і палявых пляцоўках 320 самалётаў праціўніка. Да 1960 у Сав. Арміі, падпалкоўнік. Яго імем названа вуліца ў г. Талачын.

**ЛУЗГІН** Васіль Іванавіч (н. 25.2.1914, в. Дрымаўшчына Чашніцкага р-на), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсамольска-маладзёжнага падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. ў Айч. вайну, парт. і дзярж. дзеяч БССР. Чл. КПСС з 1939. Скончыў ВПШ пры ЦК ВКП(б) (1949). З 1937 сакратар Чашніцкага РК, Віцебскага абкома ЛКСМБ. З сак. 1942 1-ы сакратар *Віцебскага падпольнага абкома ЛКСМБ,* чл. *Віцебскага падпольнага абкома КП(б)Б.* У 1944—46 сакратар ЦК ЛКСМБ. З 1949 інспектар ЦК КП(б)Б, 2-і сакратар Пінскага абкома, 1-ы сакратар Драгічынскага РК КПБ. З 1959 нам. міністра, у 1973—82 міністр сац. забеспячэння БССР. Канд. у чл. ЦК КПБ у 1952—54, чл. ЦК КПБ у 1954—60, чл. Рэвізійнай камісіі КПБ з 1976. Дэп. ВС БССР у 1955—63, 1975—85.

**ЛУКАШЭ́ВІЧ** Аляксей Сцяпанавіч (3.6.1924, в. Чарнавосава Крупскага р-на — 13.11.1943), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. ВЛКСМ. З крас. 1942 разведчык-падрыўнік атрада «Сярп», *партызанскага атрада 28-га.* Пусціў пад адхон 9 варожых эшалонаў, двойчы псаваў лінію сувязі са стаўкай фаш. галоўнакамандавання. Трапіўшы ў засаду ворага, цяжка паранены, апошняй гранатай падарваў сябе і гітлераўцаў. Пахаваны ў в. Глыбокае Круглянскага р-на. У в. Ухвала Крупскага р-на помнік Л. Яго імем названы вуліца ў г. Круглае, Ухвальская сярэдняя школа, каля школы — бюст Л.

**ЛУНІНЕЦ,** горад, цэнтр Лунінецкага р-на. За 240 км на У ад Брэста. Вузел чыг. дарог на Брэст, Баранавічы, Сарны, Гомель. Аўтадарогамі звязаны з Пінскам, Ганцавічамі, Калінкавічамі. 8,3 тыс. жыхароў у 1939. 10.7.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў створаных тут лагерах смерці загубілі 4312 чал., усяго ў Л. і раёне знішчылі 16 637 чал., 2319 вывезлі на фаш. катаргу ў Германію. У Л. і на тэр. раёна дзейнічалі Лунінецкія падп. райкомы КП(б)Б (канец 1942—8.7.1944) і ЛКСМБ (кастр. 1942—8.7.1944), *партызанская брыгада імя С. М. Кірава, партызанскі атрад Лунінецкі,* партыйна-камсамольскае (в. Сінкевічы, Чарабасава) і камсамольска-маладзёжнае [Лунінец (кіраўнік А. А. Жук, І. В. Лімант), вёскі Бастынь, Дрэбск, Дзятлавічы, Лунін] падполле; выдавалася падп. газ. *«Авангард».* Падпольшчыкі Л. падтрымлівалі цесную сувязь з партызанамі, перадалі штабу партыз. брыгады імя Кірава карту размяшчэння ваен. аб'ектаў фаш. гарнізона ў Л., якая была накіравана камандаванню Чырв. Арміі. Выкарыстоўваючы карту, сав. авіяцыя разбамбіла ваен. аб'екты Лунінецкага гарнізона. На працягу 1942 партыз. атрады В. З. Каржа, імя Кірава і імя М. Ц. Шыша часткова ачысцілі ад акупантаў Лунінецкі р-н, а да канца 1943 была створана адна з першых партыз. зон у паўд.-зах. частцы Беларусі (чатырохвугольнік Ганцавічы — Жлобін — Калінкавічы — Лунінец). Вызвалены 10.7.1944 воінамі 23-й (палк. І. В. Басцееў) і 55-й (палк. В. П. Шмыглоў) стралк. дывізій 89-га стралк. корпуса 61-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе наступлення на баранавіцка-брэсцкім напрамку ва ўзаемадзеянні з 1-й (капітан 2-го рангу С. М. Лялько) і 2-й (капітан 2-га рангу У. М. Міцін) брыгадамі рачных караблёў *Днятроўскай ваеннай флатыліі* і партызанамі брыгады імя Кірава. 7 часцям і злучэнням Чырв. Арміі, якія вызвалілі Л., прысвоены ганаровыя найменні «Лунінецкіх» (гл. *Лунінецкія вайсковыя злучэнне і часці).* У Л. брацкія магілы сав. воінаў і партызан, ахвяр фашызму, на якіх пастаўлены помнікі; помнік на брацкай магіле 4474 сав. воінаў, партызан і мірных жыхароў, што загінулі ў гады вайны, насыпаны курган Бессмяротнасці; мемар. дошка ў гонар воінаў-вызваліцеляў і партызан. Працуе *Лунінецкі раённы краязнаўчы музей.*

*Н. У. Капранава.*

**ЛУНІНЕ́ЦКІ РАЁННЫ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты 17.2.1986. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, размешчана ў 2 залах, пл. 26 м², 373 экспанаты асн. фонду. Прадстаўлены матэрыялы аб пачатковым перыядзе вайны, аб узнікненні і разгортванні падполля і партыз. руху ў раёне, аб *Пінскім партызанскім злучэнні,* аб падп. друкарні, партыз. збраевай майстэрні, хлебапякарні партыз. атрада імя Кірава, дакументы аб баявых дзеяннях партызан, падп. газ. *«Палеская праўда»* і *«Авангард»,* лістоўкі. Матэрыялы аб Сінкевіцкай і Чарабасаўскай падп. камсам. групах, фатаграфіі актыўных удзельнікаў падполля, у т. л. сакратароў арганізацый М. І. Клеўжыца і А. П. Дунца, фатаграфіі, дакументы, асабістыя рэчы партызан брыгады імя Кірава, атрадаў імя Сталіна, «За Радзіму», імя Калініна, у т. л. камандзіра брыгады А. П. *Савіцкага,* камісара Ф. І. *Лісовіча,* нач. штаба А. І. Кубасава, камандзіраў атрадаў М. Г. Каш-



Экспазіцыя, прысвечаная фарсіраванню р. Дняпро на Беларусі, у Лоеўскім музеі бітвы за Дняпро.

танава, І. М. Корбана, М. Х. Хасенава і інш. Матэрыялы аб удзеле землякоў у Вял. Айч. вайне, аб вызваленні горада і раёна воінамі 55-й, 23, 30-й стралк. дывізій 61-й арміі, аб вайсковых часцях і злучэнні, якія атрымалі ганаровыя найменні «Лунінецкіх» (фатаграфіі, дакументы, асабістыя рэчы воінаў-вызваліцеляў, у т. л. Героя Сав. Саюза Дз. А. Арыстархава, Ф. І. Вінакурава, А. П. Турчынскага і інш.). *Г. А. Іванюковіч.*

**ЛУНІНЕ́ЦКІЯ ВАЙСКО́ВЫЯ ЗЛУЧЭ́ННЕ І ЧА́СЦІ.** За вызваленне г. Лунінец (10.7.1944) у ходзе наступлення сав. войск на баранавіцка-брэсцкім напрамку загадам ВГК ад 23.7.1944 ганаровыя найменні «Лунінецкіх» нададзены 6 часцям 1-га Бел. фронту і 1 злучэнню *Дняпроўскай ваеннай флатыліі.*

Часці і злучэнне, якім нададзены ганаровыя найменні «Лунінецкіх»: 89-ы (падпалк. А. Д. Тараненка), 107-ы (падпалк. Ф. В. Смякалін), 111-ы (падпалк. І. П. Чарнавусенка) і 117-ы (падпалк. Ф. І. Вінакураў) стралк. палкі, 239-ы асобны лінейны батальён сувязі (маёр М. А. Кулагін), 73-і ваеннабудаўнічы атрад (капітан А. У. Франчук), 2-я брыгада рачных караблёў (капітан 2-га рангу У. М. Міцін). Войскам, якія вызвалялі Лунінец, загадам ВГК ад 10.7.1944 аб'яўлена падзяка, у Маскве дадзены салют 20 арт. залпамі з 224 гармат. *М. І. Камінскі.*

**ЛУ́ПАЛАЎСКІ ЛА́ГЕР СМЕ́РЦІ** (шталаг № 813). Створаны ням.-фаш. акупантамі ў 1941 на ўскраіне Магілёва для масавай загубы сав. ваеннапалонных.

Быў агароджаны калючым дротам, па якім пускалі электрычны ток. Вязняў трымалі ў антысанітарных умовах (панаваў тыф), катавалі, марылі голадам, расстрэльвалі. За час існавання лагера да 1943 загублена больш за 40 тыс. чал. На месцы лагера смерці мемар. комплекс, перад уваходам на яго тэр. запалены Вечны агонь. *Т. Ф. Палажэнцава.*

**ЛУ́ПІКАЎ** Сяргей Агафонавіч (н. 26.10. 1923, в. Бяседавічы Хоцімскага р-на), поўны кавалер ордэна Славы. На фронце з 1943. Пам. камандзіра разведвальнага ўзвода сяржант Л. вызначыўся ў баях за вызваленне Польшчы. У жн. 1944 у баях за крэпасць Асавец фарсіраваў раку, разведаў агнявую сістэму ворага; 4.2.1945 замяніў камандзіра ўзвода, за 3 дні баёў узвод на чале з Л. захапіў 2 пушкі, 4 кулямёты, узяў у палон 172 гітлераўцаў; 27.3.1945 узвод Л. ўначы разведаў у 4 месцах пераправу цераз р. Ісача, чым садзейнічаў прарыву абароны праціўніка і ўступленню сав. войск у Гдыню. У баях за горад узвод захапіў тэр. авіязавода і ўзяў у палон 50 гітлераўцаў. Жыве і працуе ў Магілёве.

А. С. Лукашэвіч. С. А. Лупікаў. М. В. Лусто. А. П. Луцэвіч. А. А. Лучынскі. З. Р. Лышчэня.



**ЛУСТО́** Міхаіл Васілевіч (21.9.1921, Магілёў — 16.3.1979), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Армавірскую ваен. авіяц. школу пілотаў (1942), акадэміі Ваен.-паветр. (1954), Генштаба (1961). З сак. 1943 на Сцяпным, Варонежскім, 2-м і 1-м Укр. франтах. Удзельнік Курскай бітвы, баёў на Украіне, у Малдавіі, Румыніі, Польшчы, Германіі. Лётчык, камандзір звяна, эскадрыллі знішчальнага авіяпалка ст. лейтэнант Л. зрабіў 251 баявы вылет, правёў 49 паветр. баёў, збіў 19 самалётаў і 1 у групавым баі. Эскадрылля Л. з студз. да крас. 1945 збіла 48 самалётаў праціўніка. Да 1974 у Сав. Арміі, палкоўнік.

**ЛУЦЭ́ВІЧ** Андрэй Піліпавіч (10.8. 1919, в. Заазер'е Пухавіцкага р-на — 17.7.1944), Герой Сав. Саюза (1944). Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. На фронце з чэрв. 1941. Камандзір гарматы ст. сяржант Л. вызначыўся пры фарсіраванні Зах. Дзвіны ў Віцебскай вобл. ў складзе войск 1-га Прыбалт. фронту. 24.6.1944 пад шквальным агнём праціўніка знішчыў 4 кулямёты і мінамёт, на падручных сродках у ліку першых фарсіраваў раку з гарматай і агнём з яе садзейнічаў захопу і расшырэнню плацдарма. Загінуў у баі. Пахаваны ў в. Смалвас Зарасайскага р-на Літоўскай ССР. Навечна занесены ў спісы батарэі, якой прысвоена яго імя. У г. Прэкуле Клайпедскага р-на Літоўскай ССР яго імем названа вуліца, на радзіме яму пастаўлены помнік.

**ЛУЧЫ́НСКІ** Аляксандр Аляксандравіч (н. 23.3.1900, Кіеў), Герой Сав. Саюза (1945), ген. арміі (1955). Чл. КПСС з 1943. У Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1940). З 1941 на Закаўказскім, Паўн.-Каўказскім франтах, у Прыморскай арміі, на 1-м і 3-м Бел., 1-м Укр. і Забайкальскім франтах: камандзір стралк. дывізіі, корпуса, камандуючы арміяй. Удзельнік вызвалення Глуска, Слуцка, Вілейкі, Мінска, Баранавіч, Пружан, Брэста, Усх.-Прускай, Берлінскай, Пражскай аперацый, разгрому Квантунскай арміі Японіі на Далёкім Усходзе. Пасля вайны на камандных пасадах у Сав. Арміі. Канд. у чл. ЦК КПСС у 1952—61. Дэп. ВС СССР у 1946—58. Ганаровы грамадзянін Брэста.

**ЛЫ́ЖКІН** Мікалай Міхайлавіч (н. 15.12. 1914, г. п. Гары Свярдлоўскай вобл.), адзін з кіраўнікоў камсамольска-маладзёжнага падполля і партыз. руху ў Брэсцкай вобл. Чл. КПСС з 1941. Скончыў ВПШ пры ЦК КПСС (1951). З 1939 на камсам. рабоце, з 1941 сакратар Свярдлоўскага абкома ВЛКСМ. У жн.— кастр. 1943 упаўнаважаны ЦК ВЛКСМ і ЦШПР па Брэсцкай вобл. 2.2—15.7.1944 1-ы сакратар *Брэсцкага падпольнага абкома ЛКСМБ.* З 1951 інструктар ЦК КПСС, з 1954 сакратар Стаўрапольскага крайкома, з 1961 1-ы сакратар Карачаева-Чэркескага абкома КПСС. У 1969—77 у Брэсцкім аблвыканкоме. Дэп. ВС СССР у 1962—70.

**ЛЫ́ЧНЕВА,** вёска на тэр. Віцебскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на У ад в. Тарасенкі Запольскага сельсавета. Перад вайной ў ёй жыло 185 чал. У ліп. 1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 144 жыхароў, вёску (40 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**ЛЫШЧЭ́НЯ** Захар Рыгоравіч (1917, в. Пласток Любанскага р-на — 8.2. 1945), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1942. На фронце з вер. 1941: камандзір аддзялення разведкі, стар-

шына. Вызначыўся ва Усх. Прусіі. 8.2.1945 прайшоў у тыл ворага, разведаў размяшчэнне яго часцей, захапіў у палон 2 афіцэраў і важныя дакументы. Трапіўшы ў акружэнне, вёў няроўны бой. Даручыў таварышу даставіць камандаванню дакументы і прыкрыў яго адыход. Цяжка паранены захоплены ў палон і закатаваны. Навечна занесены ў спісы палка. На радзіме помнік. Яго імем названы вуліцы ў г. Любань і в. Пласток, Ямінская сярэдняя школа ў Любанскім р-не.

**ЛЬВОЎ** Аляксей Васілевіч (н. 17.3. 1918, в. Цімошына Верхнятоемскага р-на Архангельскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай і Палескай абл. Чл. КПСС з 1941. Скончыў ВПШ пры ЦК КПСС (1959). Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. З чэрв. 1941 на фронце. У партызанах з жн. 1941, з вер. 1941 камісар атрада, у студз.— чэрв. 1943 *партызанскай брыгады 64-й імя В. П. Чкалава*, у чэрв. 1943 — чэрв. 1944 камандзір *партызанскай брыгады 37-й імя. А. Я. Пархоменкі*, адначасова чл. Слуцкага падп. РК КП(б)Б. З 1944 на парт., у 1960—79 на пед. і гасп. рабоце.

**ЛЮ́БАЖАНКА,** вёска на тэр. Дзяржынскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1 км на З ад в. Самадураўшчына Дабрынёўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 59 чал. 8.1. 1943, у час карнай аперацыі *«Якаб»*, фашысты загубілі 42 жыхароў, вёску (12 двароў) спалілі, маёмасць разрабавалі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1957 на магіле ахвяр фашызму пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**ЛЮ́БАНСКІ БОЙ 1941,** бой партызан Любанскага р-на супраць ням.-фаш. акупантаў у г. п. Любань 7.11.1941. Мінскі падп. абком КП(б)Б напярэдадні 24-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі распрацаваў план разгрому фаш. гарнізона ў Любані. Былі вывучаны даныя разведкі аб колькасці і ўзбраенні гарнізона, размяшчэнні яго асноўных сіл.

У аперацыі ўдзельнічалі 5 партыз. груп, якія ўзначальвалі А. І. Далідовіч, М. М. Розаў, А. І. Патрын, А. І. Мілевіч, Г. М. Сталяроў, 2 штурмавыя групы, група гранатамётчыкаў і 2 групы прыкрыцця, якія павінны былі спыніць дадатковыя сілы праціўніка, што рухаліся з г. Слуцка і г. п. Урэчча. Напярэдадні аперацыі ўдалося нейтралізаваць любанскую паліцыю. Бясшумна зняўшы вартавых на месце цераз р. Арэса, партызаны раптоўна ўварваліся ў Любань, атакавалі будынак, дзе знаходзілася больш за 40 гітлераўцаў. Бой працягваўся каля 2 гадзін.

Партызаны поўнасцю разграмілі гарнізон, знішчылі каля 40 фашыстаў, захапілі шмат зброі, боепрыпасаў, прадуктаў і адзення. У баі загінуў партыз. кулямётчык А. М. Бляўскі. У памяць пра бой у 1972 у Любані ўстаноўлена мемар. дошка.

*М. Ф. Шумейка.*

**ЛЮ́БАНСКІ МУЗЕ́Й НАРО́ДНАЙ СЛА́ВЫ.** Адкрыты 3.7.1971. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, мае 110 экспанатаў асн. фонду, пл. 17,3 м². Прадстаўлены матэрыялы аб стварэнні *Акцябрска-Любанскай партызанскай зоны*, аб дзейнасці Мінскага падп. абкома КП(б)Б, Любанскіх падп. райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, падп. патрыятычных груп, штаба партыз. злучэння Мінскай і Палескай абл., партыз. аэрадрома на востраве Зыслаў, 6 партыз. брыгад (радыёпрыёмнік, якім карысталіся партызаны, пячатка атрада імя Будзённага, інструменты начальніка мед. службы партыз. брыгады 25-й імя Панамарэнкі С. А. Дубовіка, падп. газеты *«Звязда»*, *«Чырвоная змена»*, *«Кліч Радзімы»*, клішэ лістоўкі «Біце бязлітасна нямецка-фашысцкіх захопнікаў», наборная пліта падп. друкарні, памятка «Маладому партызану», асабістыя рэчы і ўзнагароды чл. падп. райкома партыі А. С. Луферава, камісара 3-га партыз. атрада імя Фрунзе М. А. Траскунова і інш.). Матэрыялы аб камсамольска-маладзёжным падполлі, аб узнагароджанні Любанскай раён. камсам. арг-цыі ордэнам Айч. вайны I ступені, асабістыя рэчы камсамолкі-падпольшчыцы Ф. Г. Конанавай, камсам. білет сакратара падп. райкома ЛКСМБ А. М. Майстрэнкі, рукапіс «Барацьба і музычная творчасць народных мсціўцаў. 1942 г.» чл. Любанскай падп. камсамольска-маладзёжнай групы М. Лагуна, фатаграфіі і зброя падпольшчыкаў). Расказваецца аб злачынствах ням.-фаш. захопнікаў у раёне (рэчы вязняў Бабруйскага лагера смерці, фатаграфія жыхароў в. Малыя Гарадзяцічы, спаленай гітлераўцамі ў 1943). Экспануюцца матэрыялы аб вызваленні Любані і раёна воінамі 48-й гвардз. стралк. дывізіі 28-й арміі і 19-й мотастралк. брыгады 1-га механіз. корпуса, аб барацьбе землякоў на франтах Вял. Айч. вайны, у партыз. руху і руху «Супраціўленне». Філіял музея — мемар. комплекс *Зыслаў.*

*Т. М. Дамашэвіч.*

**ЛЮ́БАНЬ,** горад, цэнтр Любанскага р-на, на р. Арэса. За 152 км ад Пд ад Мінска, за 25 км ад чыг. ст. Урэчча на лініі Баранавічы — Асіповічы, аўтадарогамі звязана з Глускам, Жыткавічамі, Чырв. Слабадой, Слуцкам. У 1938—68 гар. пасёлак. 3048 жыхароў у 1939. 28.6.1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў Л. і раёне 1610 чал. У раёне дыслацыраваліся *Мінскі падпольны абком КП(б)Б, Мінскі падпольны абком ЛКСМБ*, штаб *Мінскага партызанскага злучэння*, дзейнічалі падп. камсамольска-маладзёжная група, Любанскія падп. райкомы КП(б)Б (21.3.1943—1.7.1944) і ЛКСМБ (1.10. 1942—1.7.1944), партыз. брыгады 25-я імя Панамарэнкі, 37-я імя Пархоменкі, 64-я імя Чкалава, 121-я імя А. Ф. Брагіна, 258-я імя Куйбышава (гл. адпаведныя артыкулы); выдаваліся падп. газеты *«Звязда»*, *«Чырвоная змена»*, *«Кліч Радзімы»*. У ноч на 7.11.1941 група партыз. атрадаў разграміла ў Л. варожы гарнізон (гл. *Любанскі бой 1941*). Л. вызвалена 30.6.1944 воінамі 48-й гвардз. стралк. дывізіі (ген.-маёр Г. М. Корчыкаў) 20-га стралк. корпуса 28-й арміі пры ўзаемадзеянні з 19-й мотастралк. брыгадай 1-га механіз. корпуса коннамеханіз. групы 1-га Бел. фронту ў ходзе *Мінскай аперацыі 1944*. За актыўны ўдзел у барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў Любанская раённая камсам. арганізацыя ў 1968 узнаг. ордэнам Айч. вайны I ступені. У Л. магіла ахвяр фашызму, на ёй пастаўлены помнік; мемар. комплекс сав. актывістам, воінам, партызанам і падпольшчыкам; помнікі вызваліцелям, у гонар Перамогі, А. Ф. *Брагіну*, Ф. Г. Конанавай, мемар. дошка партызанам. Працуе *Любанскі музей народнай славы.*

*В. В. Гетаў.*

**ЛЮ́БАРСКІ** Сцяпан Іванавіч (27.12. 1896, в. Новыя Пескі Бярозаўскага р-на — 16.4.1945), ген.-лейтэнант (1944). Чл. КПСС з 1919. Скончыў ваен. акадэміі імя Фрунзе (1932), Генштаба (1938). У арміі з 1915, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны, баёў на р. Халхін-Гол у 1939. У Айч. вайну на Зах., 2-м Бел., 4-м і 1-м Укр. франтах: нам. нач. аператыўнага аддзела штаба фронту, нам. нач. штаба армій. Загінуў пры фарсіраванні р. Нэйсе ў Германіі. Яго імем названа вуліца ў г. Бяроза, на радзіме пастаўлена стэла.



Экспазіцыя, прысвечаная Вялікай Айчыннай вайне, у Любанскім музеі народнай славы.

**ЛЮБІ́МЦАЎ** Міхаіл Ціханавіч (7.11. 1900, Саратаў — 29.12.1979), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1928. Удзельнік грамадз. вайны. З 1924 на гасп. і парт. рабоце. З чэрв. 1942 інструктар Віцебскага падп. аб-

кома КП(б)Б. У партызанах з кастр. 1942: камісар атрада, у крас. — чэрв. 1943 *партызанскай брыгады 1-й імя К. С. Заслонава,* у чэрв. 1943— чэрв. 1944 *партызанскай брыгады Сенненскай,* адначасова ў крас. 1943 — чэрв. 1944 1-ы сакратар Сенненскага падп. РК КП(б)Б. З 1944 1-ы сакратар Сенненскага райкома, заг. сектара Ві-



С. І. Любарскі. І. І. Люднікаў.

цебскага абкома КП(б)Б. У 1948—67 на адм.-гасп. рабоце.

**ЛЮ́БЛІН-БРЭ́СЦКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1944,** наступальная аперацыя войск 1-га Бел. фронту (Маршал Сав. Саюза К. К. Ракасоўскі) 18 ліп. — 2 жн., састаўная частка *Беларускай аперацыі 1944.*

Удзельнічалі: арміі 8-я гвардз. (ген.-палк. В. І. Чуйкоў), 28-я (ген.-лейт. А. А. Лучынскі); 48-я (ген.-палк. П. Л. Раманенка), 47-я (ген.-лейт. М. І. Гусеў), 61-я (ген.-лейт., з 26.7.1944 ген. палк. П. А. Бялоў), 65-я (ген. палк. П. І. Батаў), 70-я (ген.-палк. В. С. Папоў), 1-я Войска Польскага (ген.-лейт. З. М. Берлінг), 69-я (ген.-лейт. У. Я. Калпакчы), 6-я і 16-я паветр. (ген.-лейт. авіяцыі Ф. П. Палынін, ген.-палк. авіяцыі С. І. Рудэнка), 2-я танк. (ген.-палк. танк. войск С. І. Багданаў, з 23.7.1944 ген.-маёр А. І. Радзіеўскі); карпусы 8-ы гвардз. і 11-ы танкавыя (ген.-лейт. танк. войск А. Ф. Папоў, ген.-маёр танк. войск І. І. Юшчук), 1-ы механіз (ген. лейт. танк. войск С. М. Крывашэін), 2-і, 4-ы, 7-ы гвардз. кавалерыйскія (ген.-лейт. У.В. Крукаў, ген. лейт. І. А. Пліеў, ген. маёр, з 26.7.1944 ген.-лейт. М. П. Канстанцінаў).

Задача аперацыі: ударамі войск фронту ў абход Брэсцкага ўмацаванага раёна з Пн і Пд разграміць люблінскую і брэсцкую групоўкі праціўніка і выйсці шырокім фронтам да р. Вісла. Войскам фронту, якія 17 ліп. выйшлі на рубеж на З ад Свіслачы, Відамлі, на У ад Кобрына, на З ад Ковеля, процістаялі асн. сілы ням. 2-й палявой, частка сіл 4-й танк. армій, з 24—25 ліп. і 9-я палявая армія. Гал. ўдар з раёна на З ад Ковеля нанеслі войскі левага крыла фронту — 70-я, 47-я, 8-я гвардз., 69-я, 1-я Войска Польскага, 2-я танк. арміі. 2-і і 7-ы гвардз. кавалерыйскія карпусы, 11-ы танк. корпус пры падтрымцы 6-й паветр. арміі. 18 ліп. яны перай-




шлі ў наступленне ў напрамку на Люблін і Прагу (прадмесце Варшавы), прарвалі варожую абарону на фронце ў 30 км, рушылі наперад на 13 км у глыбіню распалажэння праціўніка, 20 ліп.— на 70 км (20 ліп. вызвалілі Маларыту), выйшлі да Зах. Буга, фарсіравалі яго і ўступілі на тэр. Польшчы. Поспеху садзейнічала наступальная Львоўска-Сандамірская аперацыя войск 1-га Укр. фронту. Войскі правага крыла 1-га Бел. фронту —48-я, 65-я, 28-я, 61-я арміі пры падтрымцы 16-й паветр. арміі наносілі ўдар на варшаўскім напрамку, у абход брэсцкай групоўкі праціўніка з Пн. Войскі 28-й арміі вызвалілі 18 ліп. Жабінку, 22 ліп. Камянец, 28 ліп. Высокае, 61-й арміі вызвалілі 20 ліп. Кобрын, 23 ліп. Дамачова. 70-я армія фарсіравала Зах. Буг, абышла Брэст з ПдЗ, 28-я армія выйшла да Зах. Буга на ПнЗ ад Брэста, на ўсх. подступы да горада выйшлі часці 9-га гвардз. корпуса 61-й арміі. З 17 ліп. ў тыле ворага дзейнічаў 4-ы гвардз. кав. корпус, дывізіі якога выйшлі ў раёне в. Ставы да Зах.. Буга, фарсіравалі яго і 6 сутак вялі бai ў акружэнні да злучэння з часцямі 61-й і 70-й армій, якія падышлі. Брэсцкая групоўка ворага была акружана. 28 ліп. войскі 61-й арміі пры садзеянні часткі сіл 70-й і 28-й армій вызвалілі Брэст. У разгроме групоўкі ворага ў Маларыцкім р-не і ў баях за вызваленне Брэста ўдзельнічалі партызаны брыгады імя У. І. Леніна. 2-я танк. армія 24 ліп. авалодала Люблінам, 25 ліп. выйшла да р. Вісла, перадала 1-й арміі Войска Польскага, якая падышла 28 ліп., свой рубеж на Вісле і працягвала наступаць уздоўж правага берага ракі да Варшавы. 31 ліп. 2-я танк. армія прарвалася да прадмесця Варшавы — Прагі, але была сустрэта контрударам 5 танк. і 2 пях. дывізій праціўніка. Сав. войскі вымушаны былі перайсці да абароны. 8-я гвардз. і 69-я арміі 28 ліп.— 2 жн. фарсіравалі Віслу і захапілі на яе зах. беразе плацдармы ў раёнах Магнушава і Пулаў. З 2 жн. ішлі баі за Прагу і пашырэнне плацдармаў на левым беразе Віслы. У выніку аперацыі войскі 1-га Бел. фронту завяршылі вызваленне Беларусі ад ням.-фаш. акупантаў, выйшлі на тэр. Польшчы і стварылі ўмовы для далейшага наступлення на варшаўска-берлінскім напрамку. 47 вайсковым злучэнням і часцям прысвоены ганаровыя найменні «Брэсцкіх», 12 — «Кобрынскіх», 16 — «Люблінскіх» і 9 — «Ковельскіх». У гонар войск 1-га Бел. фронту ў Брэсце пастаўлены помнік.

*Я. К. Габец.*

**ЛЮ́БЧА,** гар. пасёлак у Навагрудскім р-не, на р. Нёман. За 26 км на ПнУ ад Навагрудка, 49 км ад чыг. ст. Наваельня на лініі Баранавічы — Ліда. Аўтадарогамі звязана з Навагрудкам і Карэлічамі. У 1940—56 цэнтр Любчанскага р-на. Акупіравана ням.-фаш. захопнікамі 26.6.1941, значна разбурана. Акупанты знішчылі ў Л. і раёне 1825 чал. У раёне дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б (чэрв. 1943 — 11.7.1944) і ЛКСМБ (студзень 1943— 11.7.1944), партыз. брыгады імя Дзяржынскага, 1-я Баранавіцкая, асобны партыз. атрад імя Кутузава (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«Смерть фашизму».* Вызвалена 8.7.1944 партызанамі брыгады імя Дзяржынскага (камандзір К. Ф. Шашкін; гл. *Любчанскія баі 1944*) і воінамі 69-га стралк. корпуса (ген.-маёр М. М. Мультан) 49-й арміі

2-га Бел. фронту ў ходзе *Беластоцкай аперацыі 1944*. У Л. брацкія магілы сав. воінаў і партызан, ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі; мемар. дошка ў гонар вызваліцеляў.

*У. М. Якубоўскі.*

**ЛЮ́БЧА,** вёска на тэр. Вілейскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на У ад в. Малевічы Хаценчыцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 95 чал. 5.5.1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 93 жыхароў, у т. л. 47 дзяцей, вёску (21 двор) спалілі, маёмасць разрабавалі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1955 на магіле ахвяр фашызму і ў 1975 на месцы, дзе былі спалены жыхары, пастаўлены стэлы. На месцы кожнага дома ў 1975 устаноўлены мемар. пліты, на якіх пералічаны імёны загінуўшых членаў сямей. Вёска ўвекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь*.

**ЛЮБЧА́НСКІЯ БАІ́ 1944,** баі *партызанскай брыгады імя Ф. Э. Дзяржынскага* супраць ням.-фаш. захопнікаў у г. п. Любча 3 і 6—8.7.1944.

Ням.-фаш. гарнізон у Любчы (каля 450 гітлераўцаў) прыкрываў адступленне разбітых Чырв. Арміяй гітлераўскіх войск. Камандаванне партыз. брыгады распрацавала план па захопу гарнізона. 3.7.1944 партызаны штурмам авалодалі гар. пасёлкам, знішчылі 17 і ўзялі ў палон каля 200 гітлераўцаў, захапілі 7 ручных кулямётаў, мінамёт, 13 аўтаматаў, 220 вінтовак, 60 тыс. патронаў і шмат харчавання. Выбітыя з пасёлка гітлераўцы пачалі канцэнтраваць сабраныя з тэр. Любчанскага і Навагрудскага р-наў сілы ў в. Нягневічы Любчанскага р-на з мэтай авалодаць пасёлкам, прыціснуць партызан да р. Нёман, знішчыць іх і забяспечыць прарыў разбітым вайсковым часцям цераз Налібоцкую пушчу на Ліду.

6.7.1944 гітлераўскія войскі (каля 3 тыс. чал.) пры падтрымцы танкаў і артылерыі з трох напрамкаў (ад вёсак Слабада, Ачукевічы, Галынь) пачалі наступленне. Партызаны (каля 800 чал.), узброеныя 45-міліметровай гарматай, процітанкавым ружжом, 5 мінамётамі, 5 станковымі і 46 ручнымі кулямётамі, 7 гадз. вялі няроўны бой з праціўнікам. Пры падтрымцы танкаў гітлераўцы некалькі разоў пераходзілі ў атаку з мэтай адрэзаць партызан ад пераправы цераз Нёман. З-за пагрозы акружэння брыгада была вымушана пакінуць Любчу і арганізавана адысці на новыя пазіцыі. Партызаны знішчылі каля 300 і паранілі больш за 300 салдат праціўніка, падбілі і знішчылі 3 танкі, 2 броне- і 4 аўтамашыны. 8.7.1944 пасля 2 дзён жорсткіх баёў з гітлераўскімі войскамі, якія прарываліся на Ліду, партызаны зноў захапілі Любчу і ўтрымлівалі яе да падыходу Чырв. Арміі. У баях загінулі 14 партызан.

*М. Ф. Шумейка.*

**ЛЮБЯШО́ЎСКІ БОЙ 1943,** бой *партызанскай брыгады імя В. М. Молатава* супраць ням.-фаш. захопнікаў у г. п. Любяшоў Валынскай вобл. 21.7.1943. Баявая задача партызан — не даць гітлераўцам вывезці нарабаваныя ў мясцовых жыхароў сельгаспрадукты, разграміць гарнізон, папоўніць запасы брыгады боепрыпасамі і зброяй. Кіраваў боем камбрыг М. І. *Герасімаў*. Выставіўшы засады вакол Любяшова, атрады імя Лазо і імя М. Ц. Шыша скрытна выйшлі на рубяжы атакі, разведчыкі знялі вартавых, штурмавыя групы блакіравалі фашыстаў у бункерах. Партызаны нагрузілі 300 падвод, а маёмасць і прадукты, якія засталіся ў 8 складах, падпалілі. Гал. сілы брыгады пад прыкрыццём ар'ергарда (узвода партызан, які прыняў на сябе ўдар прыбыўшага падмацавання гітлераўцаў і не прапусціў праследавацеляў) адышлі на свае базы. У баі партызаны знішчылі каля 25 фашыстаў, страцілі забітымі некалькі сваіх таварышаў.

*У. С. Пасэ.*

**ЛЮ́ДНІКАЎ** Іван Ільіч (26.9.1902, г. п. Сядова Новаазоўскага р-на Данецкай вобл.— 22.4.1976), Герой Сав. Саюза (1943), ген.-палк. (1945). Чл. КПСС з 1925. У Чырв. гвардыі з 1917, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1938). У Айч. вайну з 1941 на Паўд.-Зах., Паўд., Крымскім, Паўн.-Каўказскім, Сталінградскім, Данскім, Цэнтр., 1-м Укр., 3-м Бел. і Забайкальскім франтах: камандзір стралк. брыгады, дывізіі, корпуса, камандуючы арміяй. Удзельнік Сталінградскай і Курскай бітваў. Корпус пад камандаваннем Л. вызначыўся ў *бітве за Дняпро 1943*. У *Беларускай аперацыі 1944* камандаваў 39-й арміяй, якая разам з 43-й арміяй у ходзе *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944* акружыла і разграміла віцебскую групоўку праціўніка (гл. *Віцебскі «кацёл»*). За 4 дні баёў войскі арміі вызвалілі Віцебск і 447 населеных пунктаў. У 1945—68 на камандных пасадах у Сав. Арміі, на выкладчыцкай рабоце. Дэп. ВС СССР у 1946—54. Ганаровы грамадзянін Віцебска, дзе яго імем названы праспект. Аўтар кніг «Пад Віцебскам» (1962), «Дарога даўжынёю ў жыццё» (1969), «Вогненны востраў» (1971), «Праз навальніцы» (2 выд., 1973).

**ЛЮ́ТАЎСКІ ПЛЕ́НУМ ЦК КП(б)Б 1943,** пяты Пленум ЦК КП(б)Б 1943. Адбыўся ў Маскве 26—28.2.1943. Удзельнічалі 86 чал., у т. л. 33 чл. і 4 канд. ў чл. ЦК КП(б)Б (чл. і канд. ў чл. ЦК, якія знаходзіліся ў арміі і на рабоце ў розных абласцях Сав. Саюза, на пленум не выклікаліся), 3 чл. Рэвізійнай камісіі КП(б)Б, група сакратароў падп. парт. органаў, камандзіраў і камісараў партыз. фарміраванняў, якія прыбылі з варожага тылу. Пленум абмеркаваў даклад 1-га сакратара ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнкі «Аб становішчы і задачах работы партыйных органаў і партыйных арганізацый у акупіраваных раёнах Беларусі». Асн. ўвага была сканцэнтравана на абагульненні вопыту кіраўніцтва Кампартыі Беларусі партыз. рухам на тэр. рэспублікі, вызначэнні далейшых задач КП(б)Б у святле ўказанняў і дырэктыў ЦК ВКП(б) і ВГК. У дакладзе і выступленнях сакратароў ЦК КП(б)Б М. Я. *Аўхімовіча*, Ц. С. *Гарбунова*, У. Н. *Маліна*, Р. Б. *Эйдзінава*, сакратароў падп. абкомаў партыі В. І. *Казлова*, І. Ф. *Клімава*, І. Б. *Пазнякова*, І. А. *Стулава*, сакратара ЦК ЛКСМБ С. В. *Прыцыцкага*, актыўных арганізатараў партыз. руху А. Г. Бондара, М. П. *Каралёва*, М. П. *Шмырова* і інш. прааналізаваны вынікі работы па развіццю ўсенар. барацьбы супраць ням.-фаш. захопнікаў на Беларусі. Двухцацімесячны вопыт падп. і партыз. барацьбы супраць акупантаў сведчыў аб тым, што яе размах і эфектыўнасць непасрэдна залежалі ад узроўню парт. кіраўніцтва ёю, арганізатарскай работы ЦК КП(б)Б. Шмат увагі аддадзена пытанням парт. будаўніцтва ва ўмовах падп. барацьбы, узмацнення палітыка-масавай работы сярод насельніцтва і партызан.

Пленум падвёў вынікі баявой дзейнасці партызан і падпольшчыкаў Беларусі, абагульніў вопыт стварэння ў рэспубліцы ўзброеных партыз. сіл, вызначыў шляхі далейшага ўдасканалення іх арганізацыі і кіравання. У пастанове пленум ухваліў «...палітычныя і арганізацыйныя мерапрыемствы Бюро ЦК КП(б) Беларусі, праведзеныя за ўвесь перыяд з пачатку вайны і накіраваныя на разгортванне барацьбы беларускага народа з нямецкімі фашыстамі». З мэтай узмацнення кіруючай ролі парт. падполля ў партыз. руху, паляпшэння палітыка-масавай работы ў тыле ворага пленум вырашыў дадаткова стварыць падп. к-ты, арг-цыі, накіраваць на месцы ўпаўнаважаных, якія нясуць перад ЦК «адказнасць за палітычную работу і партызанскі рух ва ўсіх абласцях, раёнах і гарадах Беларусі». Былі вызначаны задачы парт. падполля па далейшым росце і арганізац. ўмацаванні партыз. фарміраванняў, узмацненні іх баявой дзейнасці, ухвалена арганізацыйная структура партыз. руху, якая склалася ў рэспубліцы ў першы перыяд вайны і прайшла праверку часам, намечаны шляхі яе далейшага развіцця і ўдасканалення. Пленум падкрэсліў, што асн. арганізацыйнай і баявой адзінкай у партыз. руху з'яўляецца самастойна дзейны, манеўраны, няўлоўны, звязаны з насельніцтвам партыз. атрад; папярэдзіў супраць механічнага аб'яднання атрадаў у буйныя злучэнні, пабудаваныя па вайсковым прынцы-

пе. У той жа час указвалася, што партыз. рух не ведае закасцянелых форм арганізацыі. У залежнасці ад абставін і баявых задач у інтарэсах каардынацыі дзейнняў могуць утварацца больш буйныя фарміраванні. Пленум вызначыў праграму баявых дзейнняў партыз. атрадаў, якая выцякала са становішча на фронце, перамаганоснага наступлення Чырв. Арміі ў раёне Сталінграда і на Каўказе. Найважнейшай задачай з'яўляліся ўзмацненне барацьбы на камунікацыях акупантаў, выратаванне насельніцтва ад знішчэння і вывазу ў Германію, а таксама нар. дабра ад грабяжу і знішчэння адступаючымі варожымі войскамі. У гарадах і сельскіх населеных пунктах рэкамендавалася стварыць спец. баявыя групы па ліквідацыі фаш. каманд факельшчыкаў, прадухіленню разбурэння будынкаў, фабрык і заводаў адступаючым ворагам. Галоўнае ў гэтай справе, падкрэслівалася ў пастанове,— актыўныя дзеянні партызан. Пленум запатрабаваў ад парт. арг-цый і атрадаў актыўна ўплываць на разгортванне падп. барацьбы ў гарадах і інш. населены пунктах, падкантрольных ворагу, практыкаваць работу адзіночак і невял. глыбока закансііраваных груп, звязаных толькі з упаўнаважанымі парт. органаў. «Неабходна,— гаварылася ў пастанове пленума,— развіць прынцып функцыянальнай пабудовы работы, які апраўдаў сябе на вопыце барацьбы, г. зн. калі кожны выконвае толькі сваю задачу. Толькі пры гэтых умовах у людзей могуць паявіцца глыбокія навыкі, выпрацавацца тэхніка барацьбы і могуць паявіцца сапраўдныя віртуозы сваёй справы». Былі разгледжаны пытанні работы ЛКСМБ. Упаўнаважаным ЦК КП(б)Б па абласцях і раёнах, сакратарам парт. к-таў, камісарам атрадаў і брыгад было прапанавана палепшыць кіраўніцтва падп. камсам. арг-цыямі, патрыятычным выхаваннем моладзі. Падкрэслівалася асаблівая важнасць паліт. работы ў зах. абласцях Беларусі «ў процівагу нацыяналістычнай апрацоўцы, якая вялася з боку розных польскіх нелегальных арганізацый». Для больш шырокага вядзення бальшавіцкай прапаганды сярод насельніцтва акупіраванай тэрыторыі пленум даручыў бюро ЦК дадаткова заслаць у тыл партатыўныя друкарні з запасамі паперы. Пленум зацвердзіў ваен.-паліт. састаў ЦК КП(б)Б «для работы ва ўмовах ваеннага часу па кіраўніцтву і расшырэнню народнай барацьбы супраць нямецкіх акупантаў... а таксама зыходзячы з неабходнасці прыцягнення ў састаў ЦК новых таварышаў, якія праявілі сябе з станоўчага боку ў справе арганізацыі барацьбы народных мас на акупіраванай тэрыторыі...». У выбраны на пленуме састаў ЦК КП(б)Б увайшлі: М. Я. Аўхімовіч, І. С. Былінскі, *І. П. Ганенка*. Ц. С. Гарбуноў, В. С. Забела, М. В. *Зімянін*, В. І. Казлоў, П. З. *Калінін*, М. П. Каралёў, І. М. *Кардовіч*, І. А. Крупеня, У. Н. Малін, Р. Н. *Мачульскі*, Н. Я. Наталевіч, П. К. *Панамарэнка*, І. І. *Рыжыкаў*, І. Л. *Сацункевіч*, С. І. *Сікорскі*, І. А. Ступаў, Л. Ф. Цанава, М. П. Шмыроў, Р. Б. Эйдзінаў. Пленум даручыў ваен.-паліт. саставу ЦК стварыць падп. ЦК КП(б)Б і вызначыць яго месцазнаходжанне, аднак неабходнасць у гэтым адпала. Рашэнні пленума ўзброілі ўсіх камуністаў, жыхароў Беларусі дакладнай праграмай дзейнняў за перотварэнне партыз. руху ва ўсенар. барацьбу супраць гітлераўскіх акупантаў.

*М. Я. Аўхімовіч.*



П. А. Лявіцкі. Ю. А. Лянда.

**ЛЮЦЕЦКІ ПАСЁЛАК**, вёска на тэр. Барысаўскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на Пд ад в. Клетнае Майсееўшчынскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 136 чал. У маі 1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 136 жыхароў, у т. л. 31 дзіця, вёску (24 двары) спалілі, маёмасць разрабавалі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1977 на месцы вёскі пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь*.

**ЛЯВІЦКІ** Пётр Адамавіч (26.8.1906, в. Лазовае Асіповіцкага р-на — 24.11. 1977), адзін з арганізатараў партыз. руху, сав. парт. і дзярж. дзеяч. Чл. КПСС с 1930. Скончыў Маскоўскую с.-г. акадэмію (1935). З 1925 на сав., парт. і адм. рабоце. З студз. 1941 1-ы сакратар Палескага абкома КП(б)Б. У пач. вайны адзін з арганізатараў партыз. руху на Палессі. З кастр. 1941 сакратар Алтайскага крайкома ВКП(б), з ліст. 1942 у апараце ЦК ВКП(б), з жн. 1943 1-ы сакратар Палескага абкома КП(б)Б, чл. Ваен. савета 61-й арміі. У 1944—56 1-ы нам. Старшыні СМ БССР, 1-ы нам. міністра сельскай гаспадаркі БССР. З 1956 1-ы нам. Старшыні СМ Літоўскай ССР. У 1959—65 нам. старшыні, старшыня Магілёўскага аблвыканкома, нач. Гал. ўпраўлення меліярацыі і воднай гаспадаркі пры СМ БССР. Чл. ЦК КПБ у 1940—49, 1960—66, чл. Бюро ЦК КП(б)Б у 1945—47. Дэп. ВС СССР у 1946—50, ВС БССР у 1947—51, 1955—63.

**ЛЯВІШЧА**, вёска на тэр. Слуцкага р-на, знішчаная ням. фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1,5 км ад в. Красная Старонка Амговіцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жылі 63 чал. 26.1.1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 50 жыхароў, у т. л. 30 дзяцей, вёску (28 двароў) спалілі, маёмасць разрабавалі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1982 на месцы вёскі пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь*.

**ЛЯВО́НАЎ** Васіль Сяргеевіч (27.3.1911, г. Бранка Варашылаўградскай вобл.— 15.7.1977), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1931. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1950). З 1933 у Чырв. Арміі. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40, камісар палка. З ліп. 1941 у партызанах: камандзір групы, атрада, у жн.— кастр. 1942 камісар *партызанскай брыгады М. П. Гудкова*, у кастр. 1942 — чэрв. 1944 камандзір *партызанскай брыгады Сенненскай*, адначасова чл. Сенненскага падп. РК КП(б)Б. У 1946—71 на сав., парт., адм. і гасп. рабоце ў Оршы, Віцебску. У Віцебску яго імем названа вуліца.

**ЛЯ́ДСКІ БОЙ 1943**, бой партызан атрада «Камсамол» *партызанскай брыгады 1-й Мінскай* супраць ням.-фаш. захопнікаў у в. Ляды Смалявіцкага р-на 28.2.1943.

Аперацыя па разгрому гарнізона ў в. Ляды падрыхтавана камандзірам партыз. атрада «Камсамол» П. С. Вараб'ёвым. Партыз. разведчыкі захапілі ў палон нач. каравула Лядскага гарнізона, які згадзіўся правесці партызан за паласу аховы.

У ноч на 28.2.1943 група разведчыкаў атрада пад камандаваннем А. Г. Шацкава зняла вартавых і акружыла каравульнае памяшканне. Другая група партызан на чале з камандзірам атрада Вараб'ёвым і камісарам П. А. Марозавым бясшумна пранікла ў казарму гітлераўцаў і захапіла ўсю зброю (8 ручных кулямётаў, 19 вінтовак, вял. колькасць боепрыпасаў). Праз 30 хвілін супраціўленне праціўніка было задушана. У баі забіта 8 гітлераўцаў, 17 узята ў палон, 2 партызаны паранены. *У. С. Пасэ.*

**ЛЯНДА** Юрый Аўраамавіч (29.3.1892, Мінск —19.8.1960), ген.-лейт. ветэрынарнай службы (1944), прафесар (1946). Скончыў Варшаўскі ветэрынарны ін-т (1916). У арміі з 1916, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз., сав.-фінл. 1939—40 войнаў. У Айч. вайну з ліп. 1941 нач. ветэрынарнага аддзела Паўн. і Ленін-

градскага франтоў. Удзельнік абароны і прарыву блакады Ленінграда, разгрому варожых войск пад Ноўгарадам, у Карэліі і Прыбалтыцы. У 1945—49 нач. ветэрынарнай службы Ленінградскай ваен. акругі.

**ЛЯПЁШКІН** Дзмітрый Аляксандравіч (22.10.1906, в. Навабеліца Светлагорскага р-на —4.3.1979), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай і Палескай абл. Чл. КПСС з 1939. З 1930 старшыня калгаса. З 1932 у Чырв. Арміі. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. З чэрв. 1941 на фронце. З жн. 1941 у Бабруйскім камуніст. падполлі. У партызанах з снеж. 1941: камандзір узвода, з студз. 1942 камісар атрада, у лют.— снеж. 1943 камісар *партызанскай брыгады 1-й Бабруйскай*, адначасова чл. Бабруйскага падп. РК КП(б)Б. З 1944 старшыня Бабруйскага гарвыканкома, нам. старшыні Бабруйскага аблвыканкома, у 1948—67 у спажыўсаюзе.

**ЛЯСКОЎСКІ** Іосіф Тарасавіч (1.4.1901, в. Прудок Хоцімскага р-на — 23.12.1946), поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПСС з 1943. На фронце з 1941. Удзельнік абароны Каўказа, вызвалення Украіны, Малдавіі, Берлінскай аперацыі. Камандзір аддзялення мінамётнай батарэі ст. сяржант Л. вызначыўся на тэр. Малдавіі і Германіі: 25.8.1944 у баі за с. Бозіены Катоўскага р-на пад агнём праціўніка ліквідаваў 6 пашкоджанняў тэлефоннай лініі, паранены застаўся ў страі; 4.2.1945 у баі за г. Кюстрын падтрымліваў бесперапынную сувязь батарэі зназіральным пунктам; 28.4—1.5.1945 у баях за Берлін пад варожым агнём ліквідаваў больш за 20 пашкоджанняў кабелю.

**ЛЯСНЫ ЛАГЕР**, гл. *Масюкоўшчынскі лагер смерці.*

**ЛЯСНЫЯ ШКОЛЫ.** Ствараліся падп. парт. і камсамольскімі органамі, кіраўнікамі партыз. фарміраванняў для навучання дзяцей, якія знаходзіліся ў лясах пад ахövай нар. мсціўцаў. Школы размяшчаліся ў зямлянках, пабудоў з лазы і інш. падручных матэрыялаў. Настаўнікі, вучні і іх бацькі ўвесь час жылі ў баявым становішчы, разам з партызанамі абаранялі свае лагеры, выходзілі з акружэння праціўніка. Работа школ адбывалася ў цяжкіх умовах: не было падручнікаў, паперы, наглядных дапаможнікаў, пісьмовых прылад. Настаўнікі аднаўлялі па памяці праграмы, складалі і размнажалі буквары, выраблялі чарніла. Адным з ініцыятараў стварэння Л. ш. ў Віцебскай вобл. быў камандзір 1-й Бел. партыз. брыгады М. П. Шмыроў. У 1943—44 школа працавала ў сямейным лагеры пры 1-й Бабруйскай партыз. брыгадзе. Найб. распаўсюджанне атрымалі ў Брэсцкай і Баранавіцкай абл., дзе існавала не менш 20 Л. ш. У арганізаванай восенню 1943 школе пры атрадзе імя Калініна партыз. брыгады імя Дзяржынскага вучылася 50 дзяцей у 3 класах. У падп. друкарні былі выпушчаны бланкі пасведчанняў з табелем паспяховасці, што выдаваліся вучням вясной 1944 пасля заканчэння навучальнага года. На пасведчаннях стаялі подпісы камандзіра і камісара атрада, настаўніцы і пінерважатага. Л. ш. дзейнічалі таксама пры атрадах імя Макарэвіча (6 школ) і імя Жданава партыз. брыгады імя Свярдлова, імя Кірава брыгады імя Панамарэнкі Брэсцкай вобл., пры партыз. брыгадзе «За Савецкую Беларусь» Баранавіцкай вобл. і інш. Савецкія школы працавалі і ў нас. пунктах партыз. зон. У школах ствараліся піянерскія арг-цыі, дзейнічалі разнастайныя гурткі. Школьнікі выступалі з маст. самадзейнасцю перад партызанамі і насельніцтвам, а таксама вывучалі баявую зброю, вучыліся аказваць першую мед. дапамогу, удзельнічалі ў гасп. работах.

*П. М. Кобрынец.*

**ЛЯСНЯНСКІ ЛАГЕР СМЕРЦІ** (шталаг № 337). Створаны ням.-фаш. акупантамі ў вер. 1941 каля чыг. ст. Лясная Баранавіцкага р-на для масавай загубы сав. ваеннапалонных. Меў 1 філіял і 8 аддзяленняў.

Лагер быў абгароджаны калючым дротам. У бараках не хапала месца ўсім ваеннапалонным (пастаянна тут трымалі да 5,5 тыс. чал.), таму большасць вязняў і зімой заставалася пад адкрытым небам. Пры непасільнай фізічнай працы гітлераўцы ўстанавілі галодны рэжым (на 1 чал. выдавалі на дзень 125 г хлеба з пілавіннем і 1,5 л баланды). Кожны дзень праводзіліся масавыя расстрэлы і павешанні. Асабліва здзекаваліся з камандзіраў Чырв. Арміі. У жн. 1942, калі вязні адмовіліся ісці ў фаш. фарміраванні, за суткі ў «душагубцы» знішчана 720 чал. У лагеры і яго філіялах за час існавання загублена 88 407 чал. На чыг. ст. Лясная пастаўлены помнік ахвярам фаш. тэрору.

*Г. І. Дулеба.*

**ЛЯУКОЎ** Анатоль Максімавіч (падп. псеўд. Толік Маленькі, 1922—12.11.1943), удзельнік *Мінскага партыйнага падполля*. Узначальваў падп. камсамольска-маладзёжную групу ў Кастрычніцкім р-не. Члены групы вызвалілі ваеннапалонных у партыз. атрады, рабілі дыверсіі ў раёне чыг. вузла, здабывалі і перадавалі партызанам зброю і боепрыпасы. Асабіста ўдзельнічаў у арганізацыі ўзрыву нафтабазы ў Чырв. Урочышчы, 2 цыстэрнаў з гаручым і 2 платформ на ст. Мінск (пры гэтым згарэла 60 тыс. л бензіну). Пры арышце цяжка паранены. Загінуў у фаш. засценках. У Мінску яго імем названа вуліца.

**ЛЯУКОЎ** Пётр Маркавіч (1910, в. Аляксандраўка Слаўгарадскага р-на — 31.3.1968), поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПСС з 1944. На фронце з 1941. Удзельнік баёў пад Масквой, вызвалення Беларусі, Польшчы, баёў у Германіі. У чэрв. 1944 у час бою на шашы Орша — Магілёў камандзір гарматы сяржант Л. скрытна размясціў гармату на зручнай пазіцыі і падавіў агонь варожага дзота, чым забяспечыў наступленне пяхоты; на тэр. Польшчы падавіў агонь гарматы праціўніка; у крас. 1945 на беразе Эльбы разлік гарматы пад яго камандаваннем знішчыў дзот, чым садзейнічаў наступленню батальёна. Пасля вайны жыў і працаваў у Слаўгарадзе.

**ЛЯЎШЫНСКІ** Цімафей Іванавіч (25.1.1906, в. Залатва Быхаўскага р-на —7.1.1952), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1931. З 1930 на сав., гасп. і парт. рабоце. З чэрв. 1941 на фронце. У партызанах з мая 1942: палітрук роты, камісар атрада, у кастр. 1943— лют. 1944 камісар *партызанскага палка 425-га*, адначасова чл. Быхаўскага падп. РК КП(б)Б. З 1944 на парт., гасп. і сав. рабоце ў Мінску.

І. Т. Ляскоўскі. П. М. Ляўкоў.



**ЛЯХАВІЧЫ**, горад, цэнтр Ляхавіцкага р-на, на р. Ведзьма. За 220 км на ПнУ ад Брэста; чыг. станцыя на лініі Баранавічы — Лунінец, звязаны аўтадарогамі з Баранавічамі і Клецкам. 5,1 тыс. жыхароў у 1939. 24—25.6.1941 у раёне Л. вялі баі з фаш. войскамі часці 55-й стралк. дывізіі (палк. Д. І. Іванюк). 26.6.1941 Л. захапілі фаш. войскі, якія за час акупацыі ў горадзе і раёне знішчылі 4983 чал. На тэр. раёна дзейнічалі Ляхавіцкія падп. райкомы КП(б)Б (вер. 1943—10.7.1944) і ЛКСМБ (26.10. 1943—10.7.1944), партыз. брыгада 19-я імя Молатава і атрад імя Кірава, асобны атрад «Сокалы» (гл. адпаведныя артыкулы); выдавалася падп. газ. *«Савецкі патрыёт».* Вызвалены 5.7.1944 часцямі 54-й гвардз. стралк. дывізіі (ген.-маёр М. М. Данілаў) 3-га гвардз. стралк. корпуса 28-й арміі і 19-й механіз. брыгады (палк. У. В. Яршоў) 1-га механіз. корпуса з конна-механіз. групы 1-га Бел. фронту ў ходзе наступлення на баранавіцка-брэсцкім напрамку. Гітлераўцы ў горадзе, які яны ператварылі ў моцны пункт абароны, аказалі ўпартае супраціўленне. Сав. войскі абышлі ворага з флангаў, прарвалі фаш. абарону, уварваліся ў горад і пасля цяж-

кіх баёў вызвалілі яго. У Л. брацкія магілы сав. воінаў і партызан, на іх устаноўлены помнікі. *М. І. Камінскі.*

**ЛЯ́ХАЎ** Яўстафій Пятровіч (н. 18.2. 1918, с. Адналукі Болхаўскага р-на Арлоўскай вобл.), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1941. Заслужаны работнік гандлю і грамадскага харчавання БССР (1966). Скончыў Вышэйшую гандлёвую школу (1951). Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. У пач. Айч. вайны на Зах. фронце. З ліст. 1941 у падп. групе *Мінскага партыйна - камсамольскага падполля* на ЦЭЦ-2. У партызанах з мая 1942: палітрук роты, камісар атрада, у кастр. 1943— ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады імя Ф. Э. Дзяржынскага,* адначасова чл., з сак. 1944 сакратар Любчанскага падп. РК КП(б)Б. З 1944 на парт. рабоце ў Баранавічах, у 1951—85 на адм. рабоце ў гандлёвых арг-цыях рэспублікі.

А. Б. Ляшчынскі.



**ЛЯШЧЫ́НСКІ** Адам Браніслававіч (н. 24.12.1920, в. Якубавічы Капыльскага р-на), Герой Сав. Саюза (1944). Скончыў паскораныя курсы Чкалаўскага танк. вучылішча (1942), 2-га Кіеўскага арт. вучылішча (1943), Варонежскі с.-г. ін-т (1957). З 1941 на Зах., Варонежскім, 1-м Укр. франтах, удзельнік абарончых баёў на Беларусі, Маскоўскай бітвы, вызвалення Украіны. Камандзір батарэі самаходнага арт. палка лейтэнант Л. вызначыўся 23.10.1943 у час прарыву абароны ворага на правым беразе Дняпра. Экіпаж самаходнай гарматы пад яго камандаваннем знішчыў 2 процітанк. гарматы, 4 кулямёты, каля роты гітлераўцаў, разбіў 6 дзотаў. Калі яго гармата была падбіта, а сам Л. паранены, працягваў бой гранатамі і аўтаматным агнём. Да 1948 у Сав. Арміі, маёр. Да 1980 на адм.-гасп. рабоце.

**ЛЯШЧЭ́НЯ** Савелій Канстанцінавіч (н. 21.1.1903, в. Жывунь Любанскага р-на), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Мінскай і Палескай абл. Чл. КПСС з 1928. Скончыў Маскоўскі ін-т сталі (1935). З 1940 заг. аддзела Стаўбцоўскага райкома, з чэрв. 1941 2-і сакратар Лідскага гаркома КП(б)Б. У ліп. 1941 накіраваны ЦК КП(б)Б у тыл ворага для арганізацыі партыз. руху ў Мінскай вобл.: інструктар *Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б,* у студз.— жн. 1943 камісар *партызанскай брыгады 37-й імя А. Я. Пархоменкі,* у вер. 1943— ліп. 1944 сакратар *Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б.* У 1944—61 на парт. рабоце ў Мінску. Канд. у чл. ЦК КП(б)Б у 1949—52, чл. Рэвізійнай камісіі КПБ у 1952—54. Аўтар кн. «З паролем гаркома» (2 выд., 1988).



**МАБІЛІЗА́ЦЫЯ,** комплекс мерапрыемстваў па пераводу ўзброеных сіл, эканомікі і дзярж. ін-таў краіны з мірнага на арганізацыю і склад ваен. часу. М. ўзброеных сіл выражаецца ў значным іх павелічэнні за кошт ваеннаабавязаных, якія знаходзяцца ў запасе, стварэння новых фарміраванняў. М. эканомікі ўключае: разгортванне ваен. вытворчасці, змяненне эканамічных прапорцый у мэтах павелічэння вытворчасці ваен. прадукцыі, перабудову работы сродкаў сувязі і транспарту на забеспячэнне патрэб ваен. часу і інш. У час Вял. Айч. вайны М. Узброеных Сіл СССР была абвешчана Указам Прэзідыума ВС СССР ад 22.6.1941 пасля нападу фаш. Германіі. М. падлягалі ваеннаабавязаныя 1905—18 г. нараджэння (кантынгент 1919—22 г. нараджэння знаходзіўся на абавязковай ваен. службе). Да 1.7.1941 ва Узброеныя Сілы СССР было мабілізавана 5,3 млн. чал., 234 тыс. аўтамашын, 31,5 тыс. трактароў. У жн. 1941 абвешчана М. ваеннаабавязаных 1890—1904 г. нараджэння і прызыўнікоў 1923 г. нараджэння. З 22.6 да 1.12.1941 дзеючая армія папоўнілася 291 дывізіяй і 94 брыгадамі. М. праходзіла ў абставінах вял. патрыятычнага ўздыму. Масавай была падача заяў аб добраахвотным уступленні ў рады Узброеных Сіл. Прызыў наступных узростаў ваеннаабавязаных ажыццяўляўся ў звычайным парадку, у адпаведнасці з Законам аб усеагульным воінскім абавязку 1939; у гады вайны ва Узброеныя Сілы СССР былі прызваны ваеннаабавязаныя да 1927 г. нараджэння. Акрамя таго, у рады абаронцаў Радзімы ўліліся каля 2 млн. добраахвотнікаў (гл. *Добраахвотніцтва*). За гады вайны ва Узброеныя Сілы СССР прызвана больш за 20 млн. чал.

Хуткае прасоўванне ворага перашкодзіла правесці М. ў зах. абл. БССР, дзе былі прызваны толькі асобныя катэгорыі каманднa-паліт. і частка радавога саставу, якія былі прыпісаны да вайсковых часцей. Не ўдалося поўнасцю правесці М. і ў Мінскай вобл. Арганізавана прайшла М. ў Віцебскай, Магілёўскай, Гомельскай і Палескай абл. З Беларусі на працягу ліп.— жн. 1941 у дзеючую армію ўступіла больш за 500 тыс. чал., арміі перададзена 2,5 тыс. аўтамашын, больш за 35 тыс. коней, 23 тыс. павозак, з дзярж. і кааператыўных фондаў рэспублікі вылучана 35 тыс. галоў буйной рагатай жывёлы, 20 тыс. тон харчавання і фуражу. З першых дзён вайны прамысловыя прадпрыемствы на неакупіраванай тэр. Беларусі пачалі працаваць на патрэбы фронту. Гомельскія з-ды «Гомсельмаш» і «Рухавік рэвалюцыі» наладзілі рамонт баявой тэхнікі і выпуск мінамётаў. Гомельскі і Навабеліцкі лесакамбінаты і Гомельскі з-д імя Кірава асвоілі вытворчасць проціттанк. мін, запалкавая ф-ка «Везувій» — ручных гранат. Гомельскія чыгуначнікі стварылі 30 перасоўных майстэрняў для рамонту армейскіх машын у палявых умовах. У Клімавічах, Гомелі і Мазыры працавалі майстэрні па рамонту танкаў і трактароў. Гомельскі металакамбінат, арцелі «Чырвоны металіст» (Бабруйск), «Молат» (Мазыр), «Молат» і «Металіст» (Віцебск) выпускалі карпусы ручных гранат. Прадукцыю для фронту давалі Магілёўскія механічныя майстэрні, Бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат, Шклоўскі льнозавод, абутковыя і швейныя прадпрыемствы рэспублікі. Хутка і арганізавана праведзена М. ваеннаабавязаных пасля вызвалення тэр. рэспублікі ад ням.-фаш. захопнікаў. 29.7.1944 ЦК КП(б)Б і СНК БССР прынялі пастанову «Аб мерапрыемствах па забеспячэнню правядзімай мабілізацыі грамадзян 1894—1926 гадоў нараджэння». Колькасць прызваных і накіраваных у дзеючыя часці і злучэнні за перыяд з пач. вызвалення тэр. БССР да сярэдзіны студз. 1945 склала больш за 560 тыс. чал. За ўвесь перыяд вайны колькасць жыхароў Беларусі, якія былі мабілізаваны і добраахвотна ўліліся ў рады Чырв. Арміі, склала больш за 1,3 млн. чал., у т. л. больш за 194 тыс. з расфарміраваных партыз. атрадаў.

У мэтах папаўнення дзеючай арміі абучаным асабовым складам Дзяржаўны камітэт абароны прыняў пастанову аб падрыхтоўцы рэзерваў (16.7.1941) і аб усеагульным абавязковым абучэнні ваеннай справе грамадзян СССР (17.9.1941). У сістэме ўсеагульнага навучання былі створаны спецыяльныя камсамольска-маладзёжныя падраздзяленні. За гады вайны ў іх падрыхтаваны 1700 тыс. кулямётчыкаў, аўтаматчыкаў, мінамётчыкаў, знішчальнікаў танкаў. На камсам. пуцёўках больш за 800 тыс. дзяўчат вывучала медыка-сан. справу. Усяго ў 1941—45 у сістэме ўсеагульнага навучання падрыхтавана каля 9,9 млн. чал., якія выкарыстоўваліся для папаўнення дзеючай арміі абучанымі рэзервамі. 19.12.1944 ЦК КП(б)Б разгледзеў пытанне аб становішчы ваен. і фізічнай падрыхтоўкі навучэнцаў у пед. вучылішчах Гомельскай вобл. Мінскі абком КП(б)Б двойчы заслухоўваў справаздачы райкомаў аб становішчы ваен. падрыхтоўкі дапрызыўнікоў у школах, вучылішчах і ВНУ вобласці. У сярэдніх школах і вучылішчах Беларусі ў 1944—45 навучальным г. падрыхтавана 1368 тэлефаністаў, 570 тэлеграфістаў, 651 радыст і 15 043 сандружынніцы. Толькі ў вузах Мінска ваен. спецыяльнасцямі авалодалі 2939 студэнтаў. Рэспубліканская арг-цыя Таварыства садзейнічання абароне, авіяцыйнаму і хімічнаму будаўніцтву падрыхтавана каля 4 тыс. інструктараў і мінёраў, сіламі якіх да кастр. 1944 праверана і размініравана плошча ў 34 833 км², абясшкоджана і знята 492 593 проціттанк. і проціпях. міны, сабра-

ны 428 514 авіябомбаў і арт. снарадаў. На курсах па падрыхтоўцы мал. мед. персаналу ў 1944—1-й пал. 1945 падрыхтавана 1245 медсясцёр. Вял. ролю ва ўзаемадзеянні дзеючай арміі і флоту адыграла добраахвотнае ўступленне сав. людзей у склад *народнага апалчэння* і *знішчальных батальёнаў.*

Важнае значэнне ва ўзмацненні баяздольнасці арміі імелі парт. і камсам. М., якія былі праведзены паводле рашэння ЦК ВКП(б) і ЦК ВЛКСМ. Усяго за гады вайны ва Узброеныя сілы СССР накіравана больш за 1,6 млн. камуністаў (уключаючы тых, хто прыйшоў па парт. прызыву, па агульнай М. і добраахвотнікаў). З парт. арг-цыі Беларусі ў чэрв.— жн. 1941 добраахвотна і па прызыву ваенкаматаў у армію пайшло 26,5 тыс. камуністаў [34 % даваен. складу КП(б)Б] і 130 тыс. камсамольцаў. Адначасова з М. Узброеных Сіл Указам Прэзідыума ВС СССР для рацыянальнага выкарыстання працоўных рэсурсаў праведзены М. на перыяд ваен. часу працаздольнага гар. насельніцтва для працы на вытворчасці і на будаўніцтве прадпрыемстваў абкома КП(б)Б І. М. Макарава і камандзіра корпуса Бакуніна, прызначанага начальнікам абароны Магілёўскага р-на.

На абарончых работах вакол горада з 26 чэрв. да 10 ліп. штодзённа працавала ад 30 да 40 тыс. гараджан і жыхароў навакольных вёсак. За кароткі тэрмін быў выкапаны процітанк. роў больш як на 25 км, пабудаваны бліндажы, дзоты, траншэі і эскарпы, пастаўлены мінныя процівпяхотныя і процітанк. палі, на некаторых вуліцах — барыкады, у асобных дамах абсталяваны арт. і кулямётныя агнявыя кропкі, у сценах прабіты байніцы. На прадпрыемствах, ва ўстановах і навучальных установах фарміраваліся атрады нар. апалчэння (гл. *Магілёўскае народнае апалчэнне 1941).* У адпаведнасці з планам непасрэдная абарона горада ўскладалася на 172-ю стралк. дывізію (ген.-маёр М. Ц. *Раманаў)* з прыдадзенымі ёй часцямі і асобнымі падраздзяленнямі. На зах. беразе Дняпра, перакрыўшы шашу Магілёў — Бабруйск і Магілёў — Мінск, абарону ажыццяўлялі 388-ы (палк. С. Ф. *Куцепаў)* і 514-ы (падпалк. С. А. Боніч), на ўсх. беразе Дняпра, прыкрываючы левы фланг і тыл дывізіі,—747-ы (падпалк. А. В. Шчаглоў) стралк. палкі. Мікалаеўка — Палыкавічы выведзены зводны полк пад камандаваннем маёра В. А. Кацюшына, куды ўвайшлі знішчальны батальён пад камандаваннем М. І. Калугіна, батальён супрацоўнікаў міліцыі пад камандаваннем капітана К. Р. *Уладзімірава* і інш. Разведкай было ўстаноўлена, што на Магілёў наступалі 4 пях. і танк. дывізіі з 2-й танк. групы ням.-фаш. войск: на бабруйска-магілёўскім напрамку палкі 23-й і 7-й пях. дывізій, на мінска-магілёўскім — 263-й і 15-й пях. дывізій. Іх падтрымлівала 3-я танк. дывізія. Пазней, калі гітлераўцы фарсіравалі Дняпро, у тыл 172-й стралк. дывізіі выйшлі 258-я і 78-я пяхотныя, а з 17 ліп. на горад былі кінуты часці 34-й і 10-й пяхотных дывізій.

З кожным днём праціўнік узмацняў націск, горад падвяргаўся шматлікім бамбардзіроўкам. У час 14-гадзіннага бою на *Буйніцкім полі* было падбіта, спалена бутэлькамі з гаручай сумессю і падарвана на мінах 39 танкаў і бронетранспарцёраў, знішчана больш за батальён салдат і афіцэраў праціў-



Пасля першага бою на Буйніцкім полі.

ваен. прамысловасці і інш. галін нар. гаспадаркі, якія працавалі на патрэбы абароны краіны. Мерапрыемствы па М., якія былі ажыццёўлены ў гады вайны, адыгралі вял. ролю ў перабудове ўсяго жыцця краіны на ваен. лад, у стварэнні неабходных умоў для разгрому фаш. Германіі і дасягненні Перамогі.

*У. І. Лемяшонак.*

**МАГІЛЁВА АБАРОНА 1941.** Праводзілася часцямі 61-га стралк. корпуса (ген.-маёр Ф. А *Бакунін*) 13-й арміі (ген.-лейт. П. М. Філатаў, з 9.7.1941 ген.-лейт. Ф. М. Рэмізаў, з 14.7.1941 ген.-лейт. В. П. Герасіменка) Зах. фронту і апалчэнцамі 3—26 ліп. План абароны горада распрацаваны штабам 61-га стралк. корпуса, разгледжаны і ўхвалены 1 ліп. на нарадзе з удзелам прадстаўнікоў Стаўкі Галоўнага камандавання Маршалаў Сав. Саюза К. Я. Варашылава і Б. М. Шапашнікава, 1-га сакратара ЦК КП(б)Б чл. ваен. савета Зах. фронту П. К. Панамарэнкі, 1-га сакратара Магілёўскага

Разведвальныя атрады дывізіі пад камандаваннем капітана М. В. Мяцельскага і ст. лейт. А. П. Ваўчка 3 ліп. ў міжрэччы Бярэзіны і Дняпра (за 35—50 км ад Магілёва) уступілі ў сустрэчныя баі з перадавымі падраздзяленнямі ням. 46-га танк. корпуса 2-й танк. групы ген. Гудэрыяна. У баях каля в. Чачэвічы і г. п. Бялынічы сав. воіны знішчылі 14 танкаў і каля роты варожай пяхоты. 5 ліп. камандзір артдывізіёна капітан Б. Л. *Хігрын*, які замяніў параненага наводчыка, асабіста знішчыў 6 варожых танкаў; прасоўванне варожых войск на гэтым участку было затрымана на суткі. 6 ліп. пад націскам намнога большых сіл праціўніка атрады адышлі ў глыб абароны дывізіі.

Дыслакацыя часцей, што абаранялі Магілёў, некалькі змянілася: замест 514-га стралк. палка, адведзенага ў рэзерв камандзіра корпуса, у аператыўнае падпарадкаванне 172-й дывізіі перададзены 394-ы полк 110-й стралк. дывізіі, які заняў абарону на ўсх. беразе Дняпра. На пазіцыі Казіміраўка — Пашкава — Гаі — ніка; каля в. Сідаравічы воіны 747-га стралк. палка знішчылі 20 танкаў і бронетранспарцёраў і больш як роту гітлераўцаў. За 10 дзён баёў, паводле звестак штаба 172-й дывізіі, адбіта 27 варожых атак, падбіта і спалена 179 танкаў і бронетранспарцёраў, захоплены 2 танкі, 12 мінамётаў, 25 кулямётаў, узята ў палон 600 і знішчана не менш за 4 тыс. салдат і афіцэраў праціўніка. 14 ліп. дывізія страціла сувязь з штабам корпуса, пасля захопу ворагам г. Чавусы спыніўся падвоз боепрыпасаў, харчоў і медыкаментаў, абаронцы горада апынуліся ў аператыўным акружэнні. 15 ліп. адбылася нарада камандавання 172-й дывізіі, камандзіраў, камісараў, нач. штабоў вайсковых часцей з удзелам сакратароў гаркома КП(б)Б, на якой было вырашана працягваць абарону горада. Баі адбываліся па ўсім фронце абароны, воіны і апалчэнцы неслі цяжкія страты, з кожным днём вакол горада сціскалася кальцо акружэння. На ПнЗ, З, ПдЗ ад

Магілёва гітлераўцы захапілі вёскі Буйнічы, Цішоўку, Зацішша, Казіміраўку, Пашкава, Гаі, Мікалаеўку, Палыкавічы, на ўсх. беразе Дняпра — Халмы, Лупалава, Грабянёва, пас. саўгаса «Вейна» і інш. 24 ліп. праціўнік прарваўся на ўскраіны Магілёва, вулічныя баі адбываліся каля дняпроўскага моста, чыг. вакзала, ст. Магілёў-Таварны, ф-кі штучнага шоўку і інш. Воіны і апалчэнцы адхілілі ультыматум гітлераўцаў аб капітуляцыі. На нарадзе каманднага саставу дывізіі і кіраўніцтва горада было вырашана з баямі выходзіць з акружэння. У ноч на 26 ліп. пасля раптоўнай магутнай артпадрыхтоўкі воіны 388-га стралк. палка з прыдадзенымі часцямі і падраздзяленнямі прарваліся з Магілёва на З, воіны 747-га, 394-га і зводнага палкоў фарсіравалі Дняпро, з баямі рушылі на У і за р. Сож злучыліся з часцямі 13-й арміі. Гераічная абарона Магілёва — адна з яскравых старонак гісторыі Вял. Айч. вайны. Сав. войскі 23-дзённымі бязлітаснымі баямі скавалі буйныя сілы ворага ў перыяд *Смаленскай бітвы 1941*, сталі магутнай перашкодай на шляху правага крыла групы армій «Цэнтр» і нанеслі вял. страты ўдарным сілам праціўніка. *Б. П. Гардзееў.*

**МАГІЛЕЎ**, горад, цэнтр Магілёўскай вобл., на р. Дняпро. За 201 км на У ад Мінска. Эканамічны і культурны цэнтр, вузел чыгунак (на Оршу, Асіповічы, Крычаў, Жлобін) і аўтамабільных дарог, прыстань на Дняпры. Аэрапорт. 99,4 тыс. жыхароў у 1939. У першы месяц Вял. Айч. вайны праведзена эвакуацыя насельніцтва, на У краіны вывезена больш за 935 чыг. вагонаў прамысловага абсталявання, увесь рухомы састаў Магілёўскага аддзялення чыгункі. З 24.6 да 3.7.1941 у М. знаходзіўся штаб Зах. фронту, з 25.6 да 3.7.1941 — ЦК КП(б)Б і Савет Народных Камісараў БССР. Былі прыняты экстраныя меры па абароне М. У абарончым будаўніцтве ўдзельнічалі 40 тыс. чал., быў сфарміраваны знішчальны батальён. Непасрэдна горад абараняла 172-я стралк. дывізія 61-га стралк. корпуса 13-й арміі Зах. фронту (гл. *Магілёва абарона 1941*). Асабліва кровапралітныя баі разгарэліся на *Буйніцкім полі* і каля пас. Гаі, дзе разам з сав. воінамі гераічна змагаліся байцы нар. апалчэння (гл. *Магілёўскае народнае апалчэнне 1941*). 26.7.1941 ням.-фаш. захопнікі акупіравалі М. Яны ўстанавілі ў горадзе жорсткі акупацыйны рэжым, стварылі 5 лагераў смерці, у т. л. *Лупалаўскі лагер смерці*, Грабянёўскі лагер смерці, перасыльны лагер № 341 для сав. ваеннапалонных, гета ў раёне р. Дубровенка і інш., у якіх загубілі 70 тыс. чал. Праз Грабянёўскі лагер прайшло каля 100 тыс. сав. ваеннапалонных і цывільных жыхароў. У прыгарадным лесе каля в. Пашкава і Палыкавічы гітлераўцы расстралялі больш за 40 тыс. ваеннапалонных і сав. грамадзян. У жн.— вер. 1941 у гета загублена 7,5 тыс. чал. Каля 30 тыс. сав. грамадзян вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. Акупанты знішчылі ў М. ўсе прам. прадпрыемствы і культурна-асветныя ўстановы. У горадзе з жн. 1941 дзейнічала *Магілёўскае партыйна-камсамольскае падполле.* Вясной 1942 узнікла падпольная арг-цыя «Камітэт садзейнічання Чырвонай Арміі» (арганізатар і кіраўнік К. Ю. *Мэтэ*, 40 падпольных груп, больш за 400 падпольшчыкаў), выдавала падп. газ. «За Родину» (з восені 1942 «За Советскую Родину»). Кіраваў падполлем і партыз. рухам на тэр. вобласці *Магілёўскі падпольны абком КП(б)Б.* Дзейнічалі *Магілёўскі падпольны абком ЛКСМБ, Магілёўскі падпольны гарком ЛКСМБ*, на тэр. вобласці (у межах даваен. адм.-тэр. падзелу) 18 падп. райкомаў КП(б)Б і 20 падп. райкомаў ЛКСМБ. У 1941 на тэр. вобласці змагалася да 40 партыз. атрадаў і груп. З крас. 1943 партыз. брыгады і атрады аб'яднаны ў *Магілёўскае партызанскае злучэнне*, якое да чэрв. 1944 уключала 10 палкоў, 12 брыгад, 50 асобных атрадаў (агульная колькасць больш за 34 тыс. чал.). На тэр. вобласці дзейнічалі таксама *Рагачоўская ваенна-аператыўная група*, партыз. злучэнне «Трынаццаць», брыгады 1-я Бабруйская, «Звязда», асобныя партыз. атрады П. А. Дудаля, «Васільева», Ананава, Д. А. Журбы, 85-ы, 64-ы, «Анатоля», Чэрыкаўскі, 110-ы, «Чапай», П. Е. Казанакава, «Алеся», «Валянціна Маёрава», М. Дз. Кохава, «Макара», Гарушкіна (гл. адпаведныя артыкулы), якія не ўваходзілі ў склад Магілёўскага партыз. злучэння. Для ўмацавання кіраўніцтва партыз. рухам у ліп.— жн. 1943 пры падп. райкомах партыі створаны Асіповіцкая, Быхаўская, Бялыніцкая, Бярэзінская, Кіраўская, Клічаўская, Круглянская, Магілёўская, Шклоўская ваенна-аператыўныя групы (гл. адпаведныя артыкулы). Партызаны кантралявалі большую частку тэр. вобласці, у *Клічаўскай партызанскай зоне* была адноўлена сав. ўлада. Баі за вызваленне М. пачаліся 23.6.1944. Гітлераўцы пераатварылі горад у крэпасць, якая мела 3 рубяжы абароны (за 3—4 км ад горада, на гар. ускраінах, на цэнтр. кварталах), масты цераз Дняпро падрыхтавалі да ўзрыву. 28.6.1944 горад вызвалены воінамі 290-й стралк. дывізіі (ген.-маёр І. Г. Гаспаран), 43-й гвардз. танк. брыгады (палк. М. П. Лукашоў), 143-й армейскай пушачна-арт. брыгады (палк. Я. К. Цюрын) 70-га стралк. корпуса, 64-й (ген.-маёр Ц. К. Шкрылёў) і 369-й (палк. П. С. Галайка) стралк. дывізій 62-га стралк. корпуса, 233-га асобнага танк. палка (палк. Л. С. Тулоўскі), 342-га гвардз. цяжкага самаходнага арт. палка (маёр М. С. Каралёў), 722-га (падпалк. С. І. Капылоў) і 1902-га (падпалк. М. С. Грдзелішвілі) самаходных арт. палкоў, часткі сіл 11-й інж.-сапёрнай брыгады (палк. Г. Ц. Сакалоў), 33-й матарызаванай інж. брыгады (інж.-палк. І. М. Гурэеў) 49-й арміі, 238-й (ген.-маёр І. Д. Краснаштанаў) і 139-й (ген.-маёр І. К. Кірылаў) стралк. дывізій 121-га стралк. корпуса, 1819-га самаходнага арт. палка (падпалк. Л. Г. Мізікін), 4-й знішчальнай процітанк. арт. брыгады (палк. М. П. Саўлевіч), 144-й армейскай пушачна-арт. брыгады (палк. К. А. Турчанінаў), 50-й інж.-сапёрнай брыгады (палк. І. А. Логінаў) 50-й арміі пры ўдзеле 2 авіядывізій 4-й паветр. арміі 2-га Бел. фронту ў ходзе *Магілёўскай аперацыі 1944.* 21 злучэнню і часці нададзены ганаровыя найменні «Магілёўскіх» (гл. *Магілёўскія вайсковыя злучэнні і часці),* 28 салдатам і афіцэрам прысвоена званне Героя Сав. Саюза. На дзень вызвалення ў М. было менш за 10 тыс. жыхароў, з 6653 будынкаў знішчана 3220. Указам Прэзідыума ВС СССР ад 25.4.1980 за мужнасць і стойкасць, праяўленыя працоўнымі горада ў гады Вял. Айч. вайны, і за поспехі, дасягнутыя ў гасп. і культурным будаўніцтве, М. узнаг. ордэнам Айчыннай вайны I ступені. У М. вайсковыя могілкі, брацкія магілы сав. воінаў, апалчэнцаў, магіла ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі; мемар. комплексы *«Змагарам за Савецкую ўладу»*, на месцы штаба Зах. фронту і Лупалаўскага лагера смерці; помнікі сав. воінам-вызваліцелям, артылерыстам і сапёрам, землякам, на месцы назіральнага пункта 121-га стралк. корпуса, на магіле Героя Сав. Саюза І. С. *Лазарэнкі,* бюст двойчы Героя Сав. Саюза І. І. *Гусакоўскага*, устаноўлены мемар. дошкі на месцах баёў у ліп. 1941, падпольшчыкам, штабу 172-й стралк. дывізіі, байцам нар. апалчэння, у гонар палка нар. апалчэння, камсамольцы-падпольшчыцы Т. Р. Карпінскай, у гонар разгрому партызанамі варожага гарнізона, ахвярам фашызму, у гонар часцей 2-га Бел. фронту, якія вызвалілі М. ад ням.-фаш. захопнікаў, загінуўшым работнікам з-даў аўтамабільнага і штучнага валакна, студэнтам і выкладчыкам педінстытута, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, камандзіру батальёна міліцыі К. Р. Уладзіміраву, Герою Сав. Саюза М. І. Яшыну. Працуе *Магілёўскі абласны краязнаўчы музей.* *В. В. Гетаў.*

**МАГІЛЁЎСКАЕ НАРОДНАЕ АПАЛЧЭННЕ 1941.** 26.6.1941 на парт.-камсам. сходзе створаны знішчальны батальён, у які запісалася 500 камуністаў і камсамольцаў. Камандзірам яго прызначаны нач. школы НКУС М. І. Калугін, камісарам — заг. аддзела прапаганды і агітацыі гаркома КП(б)Б С. К. Бандарэнка. Гэта стала пачаткам фарміравання атрадаў нар. апал-

чэння. Да 10 ліп. ў апалчэнне ўступіла больш за 12 тыс. чал., у т. л. на ф-цы штучнага шоўку 600, трубаліцейным з-дзе 250, мясакамбінаце 180, цагельным з-дзе 120 чал. Атрады нар. апалчэння створаны на гарбарным, аўтарамонтным, косцеперапрацоўчым з-дах, чыг. вузле, у педінстытуце і інш. З супрацоўнікаў абл. ўпраўлення НКУС і міліцыі сфарміраваны батальён пад камандаваннем капітана К. Р. *Уладзімірава* і атрад капітана Дз. С. Вольскага. Рашэннем абкома і гаркома КП(б)Б створаны штабы нар. апалчэння: абласны, у які ўвайшлі нам. старшыні аблвыканкома І. М. Кардовіч (начальнік), сакратар абкома КП(б)Б Н. Т. Ваўнянка, сакратар абкома ЛКСМБ Ф. А. Сурганаў, і гарадскі, у які ўвайшлі сакратар гаркома КП(б)Б А. І. Марозаў (начальнік), М. Ю. Шпалянскі, П. Ф. Валожын, П. Я. Цярэнцьеў і інш. Камандаваў нар. апалчэннем абл. ваен. камісар І. П. Ваяводзін. Апалчэнцы вялі барацьбу з ням. дыверсантамі і шпіёнамі, ахоўвалі прам. аб'екты і лініі сувязі, удзельнічалі ў эвакуацыі насельніцтва, прам. і транспартнага абсталявання, у стварэнні абарончых рубяжоў. З 3 да 26 ліп. разам з воінамі Чырв. Арміі абаранялі горад (гл. *Магілёва абарона 1941*): атрады ф-кі штучнага шоўку, гарбарнага і косцеперапрацоўчага з-даў — у радах 388-га стралк. палка, які абараняў Магілёў з З; атрады чыг. вузла, трубаліцейнага з-да, батальёны знішчальны і супрацоўнікаў міліцыі, атрад з-да «Адраджэнне» — у саставе зводнага палка пад камандаваннем маёра В. А. Кацюшына, які трымаў абарону горада з ПнЗ; атрады аўтарамонтнага з-да, мясакамбіната і інш. прадпрыемстваў, педінстытута і атрад Дз. С. Вольскага — у саставе 747-га і 394-га стралк. палкоў, якія прыкрывалі флангі і тыл 172-й дывізіі на левым беразе Дняпра. Апалчэнцы самаахвярна змагаліся супраць ням.-фаш. захопнікаў. З 250 байцоў батальёна супрацоўнікаў міліцыі ў жывых засталося толькі 19 чал., у баі за дняпроўскі мост загінулі ўсе апалчэнцы атрада Дз. С. Вольскага, больш за палавіну саставу страціў забітымі атрад ф-кі штучнага шоўку. У ноч на 26 ліп. частка апалчэнцаў разам з воінамі 172-й дывізіі вырвалася з акружэння і працягвала барацьбу ў радах Чырв. Арміі, частка — у партыз. атрадах і падполлі. На брацкіх магілах апалчэнцаў у Магілёве і пас. Гаі пастаўлены помнікі, у Магілёве ўстаноўлены мемар. дошкі, ёсць вуліца Народнага апалчэння.

*Б. П. Гардзееў.*

**МАГІЛЁЎСКАЕ ПАРТЫЗА́НСКАЕ ЗЛУЧЭ́ННЕ.** Аформілася 6.4.1943 паводле пастановы ЦК КП(б)Б ад 2.4.1943 як ваенна-аператыўная група (ВАГ) пры Магілёўскім падп. абкоме КП(б)Б. Кіраўніцтва: сакратары падп. абкома Дз. С. Маўчанскі (крас. 1943— крас. 1944), М. В. Шпак (крас.— чэрв. 1944); камандзіры ВАГ П. В. Яхантаў (крас.— жн. 1943), С. Г. Сідарэнка-Салдаценка (жн. 1943— чэрв. 1944); нач. штаба Сідарэнка-Салдаценка (крас.— жн. 1943), Г. І. Георгіеўскі (жн. 1943 — чэрв. 1944). З крас. 1942 да крас. 1943 партызанскімі брыгадамі і атрадамі на тэрыторыі Магілёўскай вобласці на З ад Дняпра кіраваў *Клічаўскі аператыўны цэнтр*.

Злучэнне яднала брыгады: 1-ю, 2, 4, 5-ю Клічаўскія, 3-ю Бярэзінскую, 1-ю Асіповіцкую (7-ю), 6-ю Магілёўскую, 8-ю Рагачоўскую (да крас. 1943), 8-ю Круглянскую, 9-ю Кіраўскую, 10-ю Жураўіцкую (да крас. 1943) — усяго каля 6,5 тыс. партызан. У складзе злучэння пасля ўключаны або сфарміраваны брыгады: 11-я Быхаўская, 12-я кав. імя Сталіна (да вер. 1943), 13-я Касцюковіцкая, 14-я Цемналеская, «Чэкіст» (15-я), імя Шчорса (16-я), 17-я (пра партыз. брыгады гл. адпаведныя артыкулы). Для ўмацавання кіраўніцтва партыз. рухам у крас. 1943 падп. абком партыі накіраваў ва ўсх. частку вобласці ўпаўнаважаных Я. Н. Нікіфарава (паўд.-ўсх. раёны) і М. В. Шпака (паўн.-ўсх. раёны). Пры падп. райкомах партыі былі створаны *ваенна-аператыўныя групы:* Асіповіцкая, Быхаўская, Бялыніцкая, Бярэзінская, Кіраўская, Клічаўская, Круглянская, Магілёўская, Шклоўская (гл. адпаведныя атрыкулы), Краснапольская, Прапойская, Чэрыкаўская; большасць брыгад на працягу 1943 расфарміравана на самастойныя атрады, якія дзейнічалі ў складзе ВАГ. Па меры росту і ўзброенасці атрады разгортваліся ў партыз. палкі: 15-ы, 113-ы, 121-ы імя Касаева, 122-і «За Радзіму», 152-і, 208-ы імя Сталіна, 277-ы, 425, 537, 600, 810-ы (гл. адпаведныя артыкулы). У снеж. 1943 перабазіраваны зноў сфарміраваная 8-я брыгада ў Брэсцкую, 208-ы полк у Пінскую вобл. На тэр. Магілёўскай вобл. дзейнічалі *партызанскі полк «Трынаццаць»* і *партызанская брыгада 1-я Бабруйская*, якія ў склад М. п. з. не ўваходзілі. На час злучэння з Чырв. Арміяй (вер.— кастр. 1943; люты і чэрв.— ліп. 1944) у М. п. з. было 33,4 тыс. партызан. 11 партызанам злучэння — Б. М. Дзмітрыеву, С. Г. Жуніну, П. І. Кавалёву, П. М. Каралёву, А. М. Касаеву, А. Ф. Колесавай, В. І. Лівенцаву, Л. Дз. Лорчанку, А. С. Лукашэвічу, У. А. Парахневічу, М. Тапівалдысву — прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

**МАГІЛЁЎСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала са жн. 1941 да чэрв. 1944 у Магілёве і раёне пад кіраўніцтвам *Магілёўскага падпольнага абкома КП(б)Б* (з крас. 1943) і Магілёўскага падп. РК КП(б)Б (з вер. 1943). Для падп. работы ў вобласці былі пакінуты кіруючыя парт. і сав. работнікі. У жн. —вер. 1941 створаны групы на чыг. вузле [кіраўнікі П. І. Бялько, А. В. Гарошка, П. В. Дракаў, І. С. Малашкевіч, В. І. Пудзін (Папоў), В. М. Жывапісцава, Г. С. Трактатава], на хлебазаводзе (А. І. Рослаў, М. М. Яўціхіеў), на аўтарамонтным заводзе (В. І. Батура, М. І. Харкевіч). Падпольныя групы дзейнічалі ў шпіталі, дзе знаходзілася каля 1000 параненых воінаў. Напярэдадні захопу горада варожымі войскамі мед. работнікі на чале з галоўурачом шпіталя У. П. Кузняцовым знішчылі гісторыі хвароб усіх камандзіраў, камуністаў і камсамольцаў. 17.11.1941 урачы шпіталя Кузняцоў, А. І. Паршын, Ф. І. Пашанін, а таксама афіцэр Ф. Я. Юраў, выдадзеныя здраднікам, гітлераўцамі пакараны смерцю. У абласной бальніцы падп. групу арганізаваў М. П. Куўшынаў. Са шпіталем былі звязаны групы ваеннаслужачых, якія ў выніку розных абставін апынуліся ў акупіраваным Магілёве. Іх узначальвалі В. Дз. Швагрынаў, П. А. Пяхоцін. Члены гэтай групы арганізавалі вываз схаванай у шпіталі зброі. Ініцыятарамі стварэння падп. групы на ф-цы штучнага шоўку былі С. Д. Гусакоў, А. П. Іваноў, Л. Ф. Кулікоўскі, Н. Г. Уладзіміраў і інш. Актыўна дзейнічалі групы А. І. Шубадзёрава, В. П. Станкевіча, І. В. Русава, У. П. Шалюты і інш.

Вялікую ролю ў стварэнні і дзейнасці падполля адыграў пакінуты ў горадзе для нелегальнай работы настаўнік магілёўскай сярэдняй школы № 25 К. Ю. *Мэтэ*, які далучыў да падп. барацьбы настаўнікаў і членаў іх сем'яў, а таксама б. выкладчыка Гомельскага лесатэхн. ін-та П. І. Крысевіча, што стаў яго бліжэйшым памочнікам у стварэнні падп. груп. У канцы 1941 І. М. Лысіковіч аб'яднаў падп. камсамольскую групу, у якую ўвайшлі Р. Дз. Радзіёнаў і М. М. Фралоў. У групу на ф-цы штучнага шоўку ўлілася маладзёжная група на чале з С. С. Сабалеўскім і І. І. Невядомскім. Падп. групы будаваліся па прынцыпу ланцужка. Кіраўнік быў звязаны з усімі падпольшчыкамі, якія не ведалі адзін аднаго. Многія члены ланцужкоў стваралі свае ланцужкі. Спачатку падпольшчыкі збіралі лістоўкі, якія скідвалі з сав. самалётаў, зрывалі фаш. плакаты і загады, пасля самі сталі пісаць і расклейваць лістоўкі і лозунгі. Многія групы, раздабыўшы радыёпрыёмнікі, запісвалі і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, стваралі канспіратыўныя і явачныя кватэры. Акрамя кватэр некаторых падпольшчыкаў, у якасці месца сустрэч выкарыстоўвалі ларок па продажы канцылярскіх тавараў, які адкрыў на Быхаўскім рынку У. П. Харытонаў. Праз гэты ларок патрыёты атрымлівалі паперу, фарбы, грошы. Шмат было зроблена па забеспячэнню патрыётаў дакументамі. Жывапісцава ў гар. управе, Рослаў у валаснoй управе выкралі вял. колькасць бланкаў з пячаткамі. Гарошка з дапамогай Н. М. Лугаўцовай, М. А. Сакалова зрабіў на пасведчаннях некалькі адбіткаў пячаткі начальніка магілёўскага аддзялення дарогі, склаў карту ваен. аб'ектаў у горадзе.

Вясной 1942 каля 40 груп (больш за 400 чал.) аб'ядналіся ў падп.

арг-цыю «Камітэт садзейнічання Чырв. Арміі», якую ўзначаліў Мэтэ, з сак. 1943 — Крысевіч. Акрамя асн. складу, у кожнай групы быў актыў, які дапамагаў выконваць асобныя заданні; барацьбу з акупантамі вялі больш за 1000 чал. У стварэнні «Камітэта» вял. ролю адыграла газ. «За Родину» (з восені 1942 «*За Советскую Родину*»). Кіруючым ядром «Камітэта» былі: А. Я. Абрамкін, Н. Ф. Арлова, Батура, П. С. Бірукоў, Бялько (Анісовіч), В. І. Варчук, Л. І. Верамейчык, Гарошка, М. К. Гваздырова, І. Г. Гурыеў, Гусакоў, Жывапісцава, А. П. Завусцінскі, А. Г. Зоцыеў, Іваноў, В. М. Карпінская, С. Л. Клімянтовіч, Куўшынаў, М. Ф. Лабяк, В. Л. Лусцянкоў, В. І. Лусто, Лысіковіч, А. Ф. Магілявец-Чуліцкая, Малашкевіч, М. Я. Новікаў, М. А. Паўлаў, Радзіёнаў, А. В. Раманава, Рослаў, Сабалеўскі, В. А. Смірноў, Станкевіч, Фралоў, Харкевіч, Харытонаў, С. М. Шакура, Шалюта, Швагрынаў, Шубадзёраў, М. Н. Шунько, Яўціхіеў.

«Камітэт» аб'ядноўваў падп. групы: настаўнікаў, чыгуначнікаў, рабочых хлебазавода, аўтарамонтнага з-да, работнікаў абл. бальніцы, былых ваеннаслужачых, рабочых ф-кі штучнага шоўку, лясніцтва, моладзі і інш. Кіраўнікі і члены груп, якія ўваходзілі ў «Камітэт», не былі звязаны паміж сабой, а толькі з цэнтрам арг-цыі, некаторыя з іх — з партыз. атрадамі Магілёўскага, Бялыніцкага, Чавускага і Шклоўскага р-наў, з дэсантнымі групамі Чырв. Арміі. Своеасаблівая структура падполля засцерагала яго ад масавых правалаў і арыштаў. У пач. 1942 былыя настаўніца сярэдняй школы № 24 Арлова і выкладчык школы НКУС М. П. Сакалоў знайшлі пішучую машынку, якую перадалі настаўніцы В. М. Карпінскай. Удзельнік абароны Магілёва палітрук Гурыеў адрамантаваў машынку, ваенрук школы № 24 Харытонаў здабываў паперу, капірку, ленту, камсамолкі Таня Карпінская і Жэня Слёзкіна друкавалі лістоўкі. Пазней Арлова, Крысевіч, Д. І. Дзерваедаў, Шалюта, Харытонаў і Гусакоў здабылі гектограф і абсталявалі падп. друкарню ў склепе дома Шалюты. Было надрукавана і распаўсюджана больш за 10 тыс. лістовак, зводак Саўінфармбюро, зваротаў да насельніцтва, экземпляраў малафарматнай газ. «За Родину», якую выдаваў «Камітэт». У іх паведамлялі пра становішча на франтах, заклікалі народ да самаадданай барацьбы з ворагам. Падпольшчыкі распаўсюджвалі таксама газеты «Правда» і «*Партизанская правда*» [орган Магілёўскага падп. РК КП(б)Б].

Асабліва актыўна дзейнічала група на чыгуначнай станцыі. Патрыёты засыпалі металічны пыл у буксы вагонаў, закладвалі магнітныя міны ў саставы з боепрыпасамі, прымацоўвалі іх да цыстэрнаў з гаручым, замарожвалі водазаборныя калонкі на станцыі, перадавалі партызанам і Галоўнаму разведупраўленню Генштаба Чырв. Арміі звесткі пра рух вайсковых эшалонаў праз Магілёў, размяшчэнне агнявых кропак, копіі планаў і схем сістэм умацаванняў, апазнавальныя знакі вайсковых часцей і інш. Акрамя гэтай групы на чыгунцы дзейнічалі групы Малашкевіча і мужа з жонкай Шакура і Шунько. Патрыёты падп. групы на ф-цы штучнага шоўку распаўсюджвалі лістоўкі і зводкі Саўінфармбюро сярод насельніцтва, рабочых ф-кі, салдат т. зв. «казацкага» палка. Паведамлялі 13-му, 113, 121, 600-му партыз. атрадам звесткі пра дыслакацыю ням. вайсковых часцей у горадзе, па няпоўных даных перадалі ім 5 кулямётаў, 45 вінтовак, 3 аўтаматы, 10 пісталетаў і наганаў, 84 гранаты, 25 кг толу, 3 пішучыя машынкі, 2 кг шрыфту, угналі некалькі аўтамашын. У сак. 1943 падпольшчыкі спалілі водазмякчальную станцыю, якая забяспечвала ЦЭЦ, вывелі са строю кабельныя сістэмы, учынілі дыверсію на падвеснай канатнай дарозе, што падавала торф на ЦЭЦ. Вялася падрыхтоўка да ўзрыву ЦЭЦ, знішчэння сыравіны. Усе гэтыя дыверсіі рабілі немагчымым аднаўленне работы ф-кі. У кастр. 1942 гітлераўцы раскрылі падп. групу на ф-цы. У ноч на 10.10.1042 фашысты арыштавалі многіх падпольшчыкаў, у т. л. Гусакова і Сабалеўскага. Гэты арышт быў першым буйным правалам «Камітэта». 25.12.1942 у выніку смелай аперацыі патрыёты вызвалілі частку арыштаваных, якія пайшлі да партызан.

У дзейнасці «Камітэта» ў падп. барацьбе і партыз. руху на Магілёўшчыне значную ролю адыгралі былыя воіны Чырв. Арміі, якія апынуліся ў акупіраваным горадзе. Група ваеннаслужачых з канца 1941 арганізавала збор зброі, боепрыпасаў, медыкаментаў, перавязачнага матэрыялу, адправіла партызанам 2 кулямёты, 22 вінтоўкі, 4 аўтаматы, 9 пісталетаў і наганаў, больш за 5 тыс. патронаў, па 2 скрынкі гранат і толу. Здабытыя звесткі разведкі перадаваліся партызанам і дэсантным групам Чырв. Арміі. Са снеж. 1942 да чэрв. 1943 праз армейскую радыстку звесткі перадаваліся непасрэдна Галоўнаму разведупраўленню Генштаба Чырв. Арміі.

У падп. барацьбе актыўна ўдзельнічалі медыкі. У «Камітэце» дзейнічала некалькі такіх груп. Падп. групу «Няскораныя» ў шпіталі ўзначальвалі Кузняцоў і Гурыеў, групу ў абл. бальніцы — Куўшынаў. Яна падбірала і накіроўвала да партызан медработнікаў, здабывала медыкаменты і перавязачны матэрыял, сабрала і перадала Мэтэ на патрэбы падп. арг-цыі вял. суму грошай. Куўшынаў ратаваў моладзь ад вывазу на катаргу ў Германію, аказваў мед. дапамогу насельніцтву. У гэтай жа бальніцы, у тыфозным аддзяленні, дзейнічала падп. камсамольская група на чале з б. урачом танк. дывізіі Зоцыевым. Летам 1943 гітлераўцы па даносу здрадніка арыштавалі групу ўрачоў.

У падп. барацьбе актыўны ўдзел прымалі камсамольцы, маладыя патрыёты. Іван Лысіковіч узначаліў групу, у якую ўвайшлі яго сябры Грыша Радзіёнаў, Жан Чыкстэ, Валодзя Гаўрылаў, Фёдар Даніленка, Міша, Рая і Жэня Фраловы. Яны размнажалі і распаўсюджвалі лістоўкі і зводкі Саўінфармбюро, збіралі і перадавалі партызанам зброю і боепрыпасы, рабілі дыверсіі ў горадзе і прыгарадзе, збіралі разведданыя. У лютым 1943 Лысіковіч і яго сябры былі арыштаваны. У групе аўтарамонтнага з-да актыўна дзейнічаў камсамолец Л. Дз. *Лорчанка*. У 1943 ён пад пагрозай правалу пайшоў у партыз. атрад, у адным з баёў апошняй гранатай падарваў сябе і групу гітлераўцаў. За мужнасць і адвагу яму было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Вялікая работа праводзілася па распрапагандаванню здрадніцкіх фарміраванняў. У лістоўках і зваротах да насельніцтва падпольшчыкі выкрывалі злосную задуму ворага ў сувязі з наборам у так званую «рускую вызваленчую армію» («РВА»), праводзілі агітацыю сярод салдат-уласаўцаў. У ноч на 10.2.1943 партызаны разам з падпольшчыкамі разграмілі ням. гарнізон у Пашкаве, каля 250 чал. перайшлі на бок партызан. Гітлераўскае камандаванне палічыла ненадзейнымі ўласаўскія батальёны і расфарміравала іх.

Узаемную дапамогу аказвалі адзін аднаму падпольшчыкі, партызаны і дэсантныя групы. Падпольшчыкі толькі па лініі «Камітэта» па няпоўных даных з вясны 1942 да сак. 1943 перадалі партызанам мінамёт, 2 станковых, больш за 50 ручных кулямётаў, 40 аўтаматаў, больш за 500 вінтовак, 300 наганаў і пісталетаў, каля 500 мін і снарадаў, больш за 100 тыс. патронаў, 1000 гранат і запалаў да іх, больш за 200 кг толу, больш як на 500 тыс. руб. медыкаментаў, хірургічных інструментаў, вял. колькасць тэкстыльных і скураных тавараў, тытуню, мыла, больш за 20 т солі і інш. Сотні сав. ваеннапалонных і насельніцтва былі выратаваны патрыётамі з фаш. лагераў смерці і перапраўлены ў партыз. атрады. Захоўваючы строгую канспірацыю, кіруючы склад «Камітэта» ніякіх агульных сустрэч, пасяджэнняў не праводзіў. Гэта дазволіла доўгі час працаваць без сур'ёзных правалаў. Але вясной — летам 1943 паліцыя і СД арыштавалі многіх падпольшчыкаў. Былі арыштаваны і загінулі маці і дачка В. М. і Т. Р. *Карпінскія*, Крысевіч і ўсе члены групы Куўшынава, пацярпелі правал чыгуначнікі. Было знішчана каля 100 удзельнікаў падполля. Мэтэ пад пагрозай правалу пайшоў у партыз. атрад. Восенню 1943 «Камітэт садзейнічання Чырвонай Арміі» як масавая падп. арг-цыя перастаў існаваць.

Паралельна з «Камітэтам» дзейнічалі самастойныя падп. групы, якія таксама друкавалі і распаўсюджвалі лістоўкі, здабывалі для партызан зброю і боепрыпасы, медыкаменты і перавязачны матэрыял, прадукты і адзенне, паведамлялі звесткі пра варожыя ўмацаванні, падрыхтоўку карных экспедыцый, рабілі дыверсіі на ваен. аб'ектах, транспарце, прадпрыемствах. Падпольшчык Гурыеў, акрамя групы ў шпіталі, арганізаваў групу ў горадзе, якая здабыла 3 кулямёты, 10 вінтовак, вял. колькасць боепрыпасаў і медыкаментаў; С. У. Шумскі выкраў з ням. склада 18 вінтовак, 11 аўтаматаў, у жн. 1942 падпаліў вайсковы эшалон. Працуючы ва ўстановах акупантаў, патрыёты даведваліся пра планы ворага, умацаванні ў горадзе і наваколлі. Звесткі праз разведгрупы паступалі ў Цэнтр. і Бел. штабы партыз. руху. Падпольшчыкі накіроўвалі з горада папаўненне партызанам і ў дэсантныя групы Чырв. Арміі.

У жн. 1942 гітлераўцы з дапамогай правакатараў арыштавалі падп. групу

на чале з В. Марозавым. Было схоплена 54 чал. У кастр. раскрыта група на ф-цы штучнага шоўку, арыштавана больш за 20 чал. У снеж. 1942— сак. 1943 у рукі гітлераўцаў трапілі многія патрыёты. Але дыверсіі ў горадзе працягваліся. 25.2.1943 падпольшчыкі перарэзалі радыёкабель, сарваўшы гэтым перадачы фаш. радыёстанцыі. 13 сак. Гурыеў са сваёй групай знішчыў ням. ахову шпіталя і вывеў у партыз. атрад мед. персанал і параненых байцоў, якія маглі хадзіць, усяго 41 чал.

У крас. 1943 падп. і партыз. барацьбу насельніцтва вобласці супраць акупантаў узначаліў Магілёўскі падп. абком КП(б)Б. Падполле стала будавацца па іншым прынцыпе. Ствараліся групы па 2—3 чал., якія не ведалі адна адну і выконвалі заданні парт. органаў і камандавання партыз. атрадаў. Ствараліся таксама групы для разведкі, агітацыі і дыверсійныя. З гэтага часу ў Магілёве актыўна дзейнічалі групы ад 61-га, 113, 121, 122 і 600-га партыз. атрадаў на чыгунцы, аэрадроме, трубаліцейным з-дзе, у ням. сталовых і складах, у гар. управе. Здаралася, што адным заданнем на аб'екце займалася некалькі груп. 13—14.9.1943 адбылася нарада сакратароў падп. райкомаў партыі і камсамола, камандзіраў, камісараў, сакратароў парт. і камсамольскіх арг-цый партыз. фарміраванняў. У выніку кіраўніцтва падп. барацьбой было ўскладзена на Магілёўскі падп. РК КП(б)Б. У жн. 1943 патрыёты падарвалі знамціраваную на аўтамашыне рухомую радыёстанцыю, узарвалі трансфарматарны кіёск і дызельную ўстаноўку ў чыгуначнай майстэрні, зрабілі дыверсію на бензаскладзе; у вер. на электрастанцыі ўзрывам поўнасцю разбурылі падвесныя дарогі, падпалілі 2 дэпо, 4 цыстэрны з бензінам; 7 ліст. ўзарвалі цыстэрну з гаручым і 5 платформ. Падпольшчыкі сарвалі мерапрыемствы фашыстаў па вывазу сав. людзей на катаржныя работы ў Германію, вялі агітацыю сярод так званых «добраахвотніцкіх» фарміраванняў, аўстрыйскіх салдат і афіцэраў, многія з якіх пайшлі да партызан. У вер. 1943 Чырв. Армія, імкліва ідучы наперад, уступіла на бел. зямлю. Напярэдадні вызвалення падпольшчыкі рабілі намаганні, каб захаваць будынкі і абсталяванне ў горадзе. Яны накіроўвалі свае ўдары на варожыя эшалоны, склады боепрыпасаў, аўтатранспарт. Узмацніліся сумесныя аперацыі з партызанамі. 28.6.1944 у ходзе *Магілёўскай аперацыі 1944* горад быў вызвалены. Многія падпольшчыкі за гераізм і адвагу ўзнаг. ордэнамі і медалямі.

У барацьбе з ням.-фаш. акупантамі загінулі: П. П. Балашэнка, П. І. Бяльке (Анісовіч), І. Верамееў, К. А. Влагіна, Н. Т. Гарбачоў, А. В. Гарошка, Д. І. Дзерваедаў, П. В. Дракаў, В. М. Жывапісцава, А. П. Завусцінскі, Г. А. Захаран, А. А. Іванова, І. Ісакаў, Т. Калбянок, Г. Карасцелін, В. М. Карпінская, Т. Р. Карпінская, П. І. Крысевіч, У. П. Кузняцоў, М. П. Куўшынаў, Л. Дз. Лорчанка, В. Л. Лусцянкоў, І. М. Лысіковіч, А. Ф. Магілявец-Чуліцкая, Э. К. Мазнікава, С. В. Мармулеўскі, Р. С. Мацвееў, С. А. Мельнік, М. М. Мяцёлкін (Каровін), Э. Г. Мізко, Г. Ндзірадзе, Ц. В. Парэбка, А. І. Паршын, Ф. І. Пашанін, У. М. Процкі, І. Ц. Прыбыток, А. Я. Пынцікаў, Р. Дз. Радзіёнаў, А. Ражкоў, Т. І. Русава, С. С. Сагалін, М. А. Сакалоў, М. П. Сакалоў, Г. В. Тамкоў, М. М. Фралоў, М. А. Цыбулькіна, Н. В. Чарапанава, І. М. Чыкстэ, Т. І. Шабанская, У. П. Шалюта, С. С. Шугалей, Ф. Я. Юраў. У Магілёве ў гонар падпольшчыкаў устаноўлены мемар. дошкі. *К. Ю. Мэтэ.*

**МАГІЛЁЎСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1944,** наступальная аперацыя войск 2-га Бел. фронту (ген.-палк. Г. Ф. Захараў) 23—28 чэрв., састаўная частка *Беларускай аперацыі 1944.*

Удзельнічалі арміі: 49-я (ген.-лейт. І. Ц. Грышын), 50-я (ген.-лейт. І. В. Болдзін), 33-я (ген.-лейт. В. Дз. Кручонкін), 4-я паветр. (ген.-палк. авіяцыі К. А. Вяршынін). Задача аперацыі — войскам 2-га Бел. фронту ва ўзаемадзеянні з войскамі левага крыла 3-га і правага крыла 1-га Бел. фронтоў разграміць магілёўскую групоўку праціўніка, вызваліць Магілёў і выйсці на р. Бярэзіна. Партызаны Магілёўскай і ўсх. раёнаў Мінскай абл. атрымалі заданне разбураць камунікацыі праціўніка і аказваць садзеенне сав. войскам пры фарсіраванні водных перашкод. На магілёўскім напрамку войскам фронту процістаялі 8 пяхотных і 2 матарызаваныя дывізіі




4-й арміі ням.-фаш. групы армій «Цэнтр», якія займалі глыбокаэшаланіраваную (60 км) абарону, Магілёў быў аперазаны 3 абарончымі рубяжамі, падрыхтаваны да кругавой абароны. За 6—10 сутак да пачатку наступлення сав. авіяцыя далёкага дзеяння правяла аперацыю па знішчэнні варожых самалётаў па аэрадромах. У ноч напярэдадні М. а. часці авіяцыі далёкага дзеяння і бамбардзіроўшчыкі фронту нанеслі ўдар па вузлах абароны і арт. пазіцыях праціўніка.

Галоўны ўдар у напрамку на Магілёў наносілі войскі 49-й арміі. Для ажыццяўлення прарыву на гэтым участку створана франтавая рухомая група (2 танк. брыгады, самаходны арт. полк, стралк. дывізія, штурмавая сапёрная і знішчальна-процітанк. арт. брыгады), якая павінна была фарсіраваць Дняпро на Пн ад Магілёва, захапіць плацдарм і ўтрымліваць яго да падыходу гал. сіл 49-й арміі. Войскі 33-й і 50-й армій трывала ўтрымлівалі рубяжы, якія займалі, і былі гатовы да праследавання праціўніка пры яго адыходзе. 23 чэрв. раніцай войскі фронту перайшлі ў наступленне. Войскі 49-й арміі фарсіравалі р. Проня, прарвалі абарону ворага на 12-кіламетровым участку, аднак прасунуліся толькі на глыбіню 5—8 км. У сувязі з пагрозай леваму флангу 49-й арміі з боку чавускай групоўкі праціўніка і для развіцця поспеху ў бой 24 чэрв. быў уведзены правафланговы 121-ы стралк. корпус 50-й арміі. У ноч на 24 чэрв. часці корпуса пераправіліся цераз Проню, зламалі супраціўленне праціўніка, фарсіравалі (адначасова з часцямі 49-й арміі) р. Бася і 25 чэрв. вызвалілі Чавусы. Войскі 49-й арміі да зыходу 25 чэрв. дасягнулі р. Рэста, на гэты рубеж падышлі і правафланговыя часці 50-й арміі. У выніку 3-дзённых цяжкіх баёў пазіцыі праціўніка былі прарваны па фронту да 70 км і на глыбіню да 30 км. 26 чэрв., пасля прарыву абарончага рубяжа праціўніка на р. Рэста, войскі 33-й і 49-й армій праследавалі праціўніка ў напрамку Шклова і Магілёва; увечар 49-я армія выйшла на Пн ад Магілёва да Дняпра і часткай сіл фарсіравала яго з ходу на З ад Плешчыцы; у той жа дзень праследаванне праціўніка пачалі войскі 50-й арміі. 26 чэрв. войскі 33-й арміі вызвалілі Горкі, 27 чэрв.— Копысь і Шклоў; войскі 50-й арміі 27 чэрв. фарсіравалі Дняпро на Пд ад Магілёва, авалодалі прадмесцем Магілёва — Лупалавам і злу-

чыліся з часцямі 49-й арміі. Спробы праціўніка затрымаць наступленне сав. войск, контратакамі скінуць у Дняпро часці, якія фарсіравалі яго, поспеху не мелі. 28 чэрв. ў выніку штурму сав. войскі вызвалілі Магілёў (праціўнік страціў каля 6 тыс. забітымі, каля 3400 палоннымі), у той жа дзень часці 50-й арміі вызвалілі Быхаў. Войскі фронту выйшлі ў міжрэчча Дняпра і Друці (160—170 км ад Мінска), былі створаны ўмовы для наступлення ў напрамку на Мінск. Чырв. Арміі дапамагалі партызаны: за 3 дні да аперацыі пачалі разбураць чыг. камунікацыі ворага метадам «рэйкавай вайны», паралізавалі яго перавозкі, толькі на чыгунцы Орша — Магілёў падарвалі больш за 5 тыс. рэек і 2 масты, захоплівалі і ўтрымлівалі да падыходу сав. войск зручныя рубяжы, пераправы і плацдармы на рэках. У ходзе М. а. войскі 2-га Бел. фронту скавалі на магілёўскім напрамку значныя сілы ворага, пазбавіўшы яго магчымасці ажыццявіць манеўр рэзервамі на гал. напрамку — у палосы наступлення 1-га і 3-га Бел. франтоў (гл. *Бабруйская аперацыя 1944* і *Віцебска-Аршанская аперацыя 1944*), а таксама арганізавана адвесці свае часці за Бярэзіну, што ў далейшым садзейнічала акружэнню і знішчэнню групоўкі праціўніка ў раёне на У ад Мінска. За гераізм у М. а. 92 сав. воінам прысвоена званне Героя Сав. Саюза; 21 вайсковае злучэнне і часць атрымалі ганаровыя найменні «Магілёўскіх», 32 — «Верхнедняпроўскіх».

*У. І. Лемяшонак.*

**МАГІЛЁЎСКАЯ ВАЕ́ННА-АПЕРАТЫ́ЎНАЯ ГРУ́ПА,** Ваенна-аператыўная група пры Магілёўскім падпольным абкоме КП(б)Б, партыз. злучэнне на акупіраванай тэр. Магілёўскай вобл., таксама назва органа кіраўніцтва гэтым злучэннем; гл. ў арт. *Магілёўскае партызанскае злучэнне.*

**МАГІЛЁЎСКАЯ ВАЕ́ННА-АПЕРАТЫ́ЎНАЯ ГРУ́ПА,** Магілёўская ВАГ, Ваенна-аператыўная група пры Магілёўскім падпольным райкоме КП(б)Б, партыз. злучэнне, якое дзейнічала на акупіраванай тэр. Магілёўскага, Бялыніцкага, Клічаўскага р-наў; таксама назва органа кіраўніцтва гэтым злучэннем. Уваходзіла ў *Магілёўскае партызанскае злучэнне.*

Створана ў ліп. 1943 у адпаведнасці з пастановай Магілёўскага падп. абкома КП(б)Б і загадам Магілёўскай (абласной) ВАГ на базе 113-га, 121-га атрадаў *партызанскай брыгады 6-й Магілёўскай* і асобнага партызанскага атрада 61-га (гл. *Партызанская брыгада 61-я*). У ліст. 1943 атрад 121-ы разгорнуты ў партыз. полк 121-ы (пазней 121-ы полк імя А. М. Касаева), у студз. 1944 атрад 113-ы — у партыз. полк 113-ы. У снеж. 1943 створаны атрад 200-ы і перададзены Баранавіцкаму Паўд. зоны партыз. злучэнню. Кіраўніцтва ВАГ: сакратар падп. РК КП(б)Б І. П. *Станкевіч* (жн. 1943 — чэрв. 1944), камандзіры К. М. *Белавусаў* (ліп. 1943 — крас. 1944), З. П. *Гапонаў* (май — чэрв. 1944), нач. штаба В. П. Дрожнікаў (ліп.— снеж. 1943), Ц. І. Немалясў (в. а.), В. С. Конанаў (май — чэрв. 1944). 30.6. 1944 ВАГ (2639 чал.) злучылася з Чырв. Арміяй. *А. Л. Манаенкаў, П. С. Паўлавец.*

**МАГІЛЁЎСКІ АБЛАСНЫ́ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты ў 1919 як губернскі музей, у Вял. Айч. вайну разрабаваны ням.-фаш. захопнікамі. Аднавіў работу ў 1950. Экспануюцца матэрыялы пра абарону горада і вобласці ў пачатковы перыяд вайны [дырэктывы ЦК ВКП(б) і КП(б)Б, асабістыя рэчы і зброя сав. воінаў і байцоў нар. апалчэння, у т. л. камандзіра 388-га стралк. палка палк. С. Ф. *Куцепава,* дзённік нач. Магілёўскага гарнізона І. П. Ваяводзіна, арт. карэспандэнта газеты «Известия» пісьменніка К. Сіманава «Гарачы дзень» і фотапанарама фотакарэспандэнта ТАСС П. А. Трошкіна «Бой на Буйніцкім полі», фатаграфіі камандзіра апалчэнцаў батальёна міліцыі К. Р. Уладзімірава, камісара К. Ф. Чарнова і інш.]. Матэрыялы аб узнікненні і разгортванні падполля і партыз. руху ў вобласці: лістоўкі, падп. абл. газ. *«За Радзіму»,* нумары падп. раённых газет, партыз. баявыя лісткі, рукапісныя часопісы баявых дзеянняў партызан Клічаўскага і Кіраўскага р-наў, друкарскія станкі, шрыфты і каса для шрыфту, самаробная зброя зброевых майстэрняў *партызанскай брыгады «Чэкіст»* і *партызанскага палка 122-га «За Радзіму»,* асабістыя рэчы, узнагароды, зброя, дакументы ўпаўнаважанага ЦК КП(б)Б І. М. *Кардовіча,* сакратара Клічаўскага падп. РК КП(б)Б Я. І. *Зайца,* камандзіра брыгады «Чэкіст» Г. А. *Кірпіча,* Героеў Сав. Саюза М. П. *Каралёва,* А. М. *Касаева* і інш., дакументы Клічаўскіх падп. РК КП(б)Б і райвыканкома аб аднаўленні Сав. улады ў *Клічаўскай партызанскай зоне,* матэрыялы аб Магілёўскай падп. арг-цыі «Камітэт садзейнічання Чырвонай Арміі» (гл. ў арт. *Магілёўскае партыйна-камсамольскае падполле*), асабістыя рэчы патрыётак-падпольшчыц *Хаўранковых,* перадсмяротнае пісьмо М. Ф. Хаўранковай, перададзенае з Аршанскай турмы. Фатаграфіі разбураных фашыстамі ф-к і з-даў, спаленых гарадоў і вёсак, магіл сав. грамадзян, асабістыя рэчы і урна з астанкамі вязняў *Лупалаўскага лагера смерці* сведчаць аб злачынствах ням.-фаш. захопнікаў у краі. Прадстаўлены матэрыялы аб вызваленні горада і вобласці ад акупантаў у ходзе *Магілёўскай аперацыі 1944* і *Беларускай аперацыі 1944:* фатаграфіі сустрэчы мясцовымі жыхарамі воінаў-вызваліцеляў, франтавыя і партыз. лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, карты, схемы ўзаемадзеяння вайсковых падраздзяленняў і партыз. фарміраванняў, асабістыя рэчы і дакументы камандзіра 369-й стралк. дывізіі Героя Сав. Саюза І. С. Лазарэнкі, які загінуў пры вызваленні Магілёўшчыны, матэрыялы аб вайсковых часцях і злучэннях, якія атрымалі ганаровыя найменні «Магілёўскіх», «Верхнедняпроўскіх», «Бабруйскіх», аб земляках двойчы Героях Сав. Саюза І. І. *Гусакоўскім,* С. Ф. *Шутаве,* І. І. *Якубоўскім,* Героях Сав. Саюза С. А. *Красоўскім,* Л. Я. *Маневічу* і інш.

*Т. Ф. Палажэнцава.*

**МАГІЛЁЎСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ АБКО́М КП(б)Б.** Створаны *Цэнтральным Камітэтам КП(б)Б* і працаваў пад яго кіраўніцтвам з 2.4.1943 да 30.6.1944. Дзейнічаў на тэр. Магілёўскай вобл. Узначальваў 18 падп. райкомаў [гл. *Раённыя падпольныя камітэты КП(б)Б*], якія аб'ядноўвалі 164 пярвічныя парт. арг-цыі, 3672 камуністаў у партыз. фарміраваннях. 14 райкомаў выдавалі газеты (гл. *Друк падпольны*). Для аператыўнага кіраўніцтва баявой дзейнасцю партыз. фарміраванняў вобласці 6.4.1943 пры абкоме створана *Магілёўская ваенна-аператыўная група* (гл. таксама *Магілёўскае партызанскае злучэнне*), у ліп.— жн. 1943 абком стварыў ВАГ пры 9 падп. РК КП(б)Б (гл. *Ваенна-аператыўныя групы*). Накіроўваў дзейнасць *Магілёўскага падпольнага абкома ЛКСМБ,* Магілёўскага партызанскага злучэння, Магілёўскага і Бабруйскага парт.-камсам. падполля (гл. адпаведныя артыкулы), падполля ў інш. населеных пунктах. Сакратары абкома: Дз. С. *Маўчанскі* (да 23.4.1944), М. В. *Шпак* (з 23.4.1943); члены: І. М. *Кардовіч* (да 15.4.1943), М. П. *Каралёў* (да 15.9.1943), І. А. *Матыль* (да 17.6.1943), І. П. *Сакалоўскі* (да 23.4.1944), П. В. *Яхантаў* (да 11.8.1943), М. І. *Кудзін* (з 18.4. 1943, нам. сакратара), Я. І. *Заяц* (18.4.1943—14.5.1944), С. Г. *Сідарэнка-Салдаценка* (з 12.8.1943), Г. Л. *Комар* (з 23.4.1944), І. П. *Станкевіч* (з 25.5.1944). Друк. орган — газ. *«За Радзіму»*; выдаваў лістоўкі, адозвы, зводкі Саўінфармбюро, арганізоўваў паліт.-масавую работу сярод насельніцтва. Базіраваўся ў Клічаўскім р-не.

З чэрв. 1942 арганізацыяй падп. парт. органаў на тэр. Магілёўскай вобл. займаўся адноўлены ў Маскве Магілёўскі абком КП(б)Б. Па яго ініцыятыве ў жн. 1942 створаны *Бабруйскі падпольны міжрайком КП(б)Б,* які на месцы падбіраў кадры, арганізоўваў падп. райкомы КП(б)Б. З ліст. 1942 гэту работу ажыццяўляў упаўнаважаны ЦК КП(б)Б па Магілёўскай вобл. Кардовіч і яго памочнікі Кудзін (з 15.11.1942) і Станкевіч (з 1.1.1943). З крас. 1943 стварэнне і зацвярджэнне падп. парт. органаў праводзіў М. п. а. КП(б)Б.

У гонар падп. абкома і *Клічаўскай ваенна-аператыўнай групы* каля в. Усакіна Клічаўскага р-на ў 1985 устаноўлены мемар. знак.

*А. А. Кузняеў.*

**МАГІЛЕЎСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ АБКО́М ЛКСМБ.** Створаны *Цэнтральным Камітэтам ЛКСМБ* 18.7.1942. Дзейнічаў на тэр. Магілёўскай вобл. са жн. 1942 да 28.6.1944 пад кіраўніцтвам ЦК ЛКСМБ і *Магілёўскага падпольнага абкома КП(б)Б*. Кіраваў работай падп. Бабруйскага міжрайкома, Бабруйскага і Магілёўскага гаркомаў ЛКСМБ (гл. адпаведныя артыкулы), 20 падп. райкомаў камсамола (гл. ў арт. *Раённыя падпольныя камітэты ЛКСМБ*), 266 тэрытарыяльных падп. і 266 пярвічных камсам. арг-цый у партыз. фарміраваннях, усяго больш за 8400 камсамольцаў. Сакратары абкома: І. А. *Матыль* (да 17.6.1943), П. Ф. *Валожын* (з 1.3.1943), Ф. М. *Іваноў* (з 3.6.1943, 1-ы сакратар з 4.1.1944), В. С. *Даўжанкова* (з 23.9. 1943), І. В. *Дубіеў* (з 25.1.1944), П. Я. *Астапенка* (19.2—27.5.1944); члены: Даўжанкова, А. П. Касцевіч (з 24.8.1942), Дубіеў (з 22.11.1942), В. А. Барабашкіна (з 1. 12. 1942), М. П. Андрэева, М. Ф. Сугака (абодва з 1.12.1942 да мая 1943), П. Я. Мякоценка (з сак. 1943), А. С. Дайнека (з 25.11.1943), С. Я. Янчанка (з 19.2.1944). Інструктарысувязныя абкома па падп. рабоце: А. П. Вашчылава (14.2—1.7.1943), Л. І. Гесць (з 24.8.1942, адначасова інструктар-сувязная ЦК ЛКСМБ). Асн. база знаходзілася ў Клічаўскім р-не. *Р. М. Шавяла.*

**МАГІЛЕЎСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ ГАРКО́М ЛКСМБ.** Дзейнічаў з 10.1.1943 да 30.6. 1944 пад кіраўніцтвам *Магілёўскага падпольнага абкома ЛКСМБ*, Магілёўскага падп. РК КП(б)Б (з сак. 1943). Кіраваў камсамольска-маладзёжным падполлем Магілёва (гл. ў арт. *Магілёўскае партыйна-камсамольскае падполле*). Сакратар гаркома С. С. Сабалеўскі, члены: І. К. Кастрычка (да 22.1.1943, загінуў), Г. В. Асмалоўская (да кастр. 1943). Асн. база знаходзілася ў Магілёўскім ВАГ (Магілёўскі р-н). У рабоце гаркома ўдзельнічалі члены Магілёўскага і Бялыніцкага падп. райкомаў ЛКСМБ.

Да стварэння падп. гаркома ЛКСМБ камсам.-маладзёжным падполлем кіравалі магілёўская гар. арг-цыя «Камітэт садзейнічання Чырвонай Арміі», са жн. 1942 — Магілёўскі падп. абком ЛКСМБ. *Р. М. Шавяла.*

**МАГІЛЁЎСКІЯ ВАЙСКО́ВЫЯ ЗЛУЧЭ́ННІ І ЧА́СЦІ.** За вызваленне г. Магілёва (28.6.1944) у ходзе *Магілёўскай аперацыі 1944* загадам ВГК ад 10.7.1944 ганаровае найменне «Магілёўскіх» атрымалі 21 злучэнне і часць 49-й і 50-й армій 2-га Бел. фронту.

Часці і злучэнні, якім нададзены ганаровыя найменні «Магілёўскіх»: 64-я (ген.-маёр Ц. К. Шкрылёў), 290-я (ген.-маёр І. Г. Гаспаран) і 330-я (палк. У. А. Гусеў) стралк. дывізіі, 1-я гвардз. штурмавая інж.-сапёрная брыгада (палк. А. Ф. Візіраў), 2-я карпусная арт. брыгада (палк. А. І. Малафееў), 5-я асобная знішчальная процітанк. арт. брыгада (палк. Дз. К. Ушакоў), 143-я армейская пушачная арт. брыгада (палк. Я. К. Цюрын), 11-я інж.-сапёрная брыгада (палк. Г. Ц. Сакалоў), 33-я асобная матарызаваная інж. брыгада (палк. І. М. Гурэеў), 50-я інж.-сапёрная брыгада (палк. І. А. Логінаў), 16-ы (падпалк. З. М. Сундакоў) і 55-ы (падпалк. М. Р. Грыголія) гвардз. гаўбічныя арт. палкі, 77-ы (падпалк. П. А. Ялесін) і 325-ы (падпалк. А. М. Кавалевіч) гвардз. мінамётныя палкі, 233-і асобны танк. полк (палк. Л. С. Тулоўскі), 722-і самаходны арт. полк (падпалк. С. І. Капылоў), 1830-ы цяжкі самаходны арт. полк (падпалк. В. С. Гаеўскі), 1099-ы карпусны арт. полк (падпалк. М. С. Пянцяшкін), 1321-ы армейскі знішчальны процітанк. арт. полк (палк. А. А. Сцяпанаў), 96-ы асобны полк сувязі (падпалк. І. С. Цярэшчанка), 414-ы асобны лінейны батальён сувязі (падпалк. Ф. Р. Корбут). Войскам, якія ўдзельнічалі ў баях за вызваленне Магілёва, загадам ВГК ад 28.6.1944 абвешчана падзяка, у Маскве дадзены салют 20 арт. залпамі з 224 гармат. *М. І. Камінскі.*

**МАГО́Н** Эрман Якаўлевіч (15.10.1899, Гольдзінгенскі павет Латвійскай ССР — 11.8.1941), ген.-маёр (1941). Чл. КПСС з 1919. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1928). У Айч. вайну на чале 45-га стралк. корпуса вёў абарончыя баі на Дняпры, Проні, Сажы (у раёне Быхава, Прапойска, Крычава). Загінуў у баі ў в. Малашкавічы Клімавіцкага р-на. У Клімавічах, дзе пахаваны М., і Крычаве яго імем названы вуліцы. На месцы гібелі абеліск.

**МАДЖА́Р** Уладзімір Раманавіч (26.8. 1921, в. Крукавічы Калінкавіцкага р-на — 3.7.1985), поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПСС з 1943. З 1941 на Балтыйскім флоце, Ленінградскім, 1-м Укр. франтах. Камандзір гарматы ст. сяржант М. вызначыўся ў баях на тэр. Польшчы і Германіі: 27.1.1945 у час прарыву абароны праціўніка каля Кракава агнём з гарматы знішчыў 2 кулямёты з разлікамі, заглушыў агонь гарматы; 31.1.1945 адбіў 3 контратакі, знішчыў каля 50 гітлераўцаў; 22.3.1945 выявіў і ліквідаваў 2 кулямётныя кропкі, адбіў контратаку ворага, знішчыў каля 20 гітлераўцаў.

**МАЖЭ́ЙКА** Павел Віктаравіч (28.12. 1911, в. Сапажкі Кармянскага р-на — 19.1.1987), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1932. Скончыў Ленінградскую ваенна-тэарэтычную школу лётчыкаў (1933), Арэнбургскую школу лётчыкаў і лётчыкаў-назіральнікаў (1935). З чэрв. 1941 на Пауд.-Зах., Варонежскім, 1-м і 4-м Укр. франтах: ваенком авіяэскадрыллі, палка, нам. нач. палітаддзела дывізіі, нам. камандзіра асобнага палка па паліт. частцы, камандзір авіяэскадрыллі, нам. камандзіра палка па лётнай падрыхтоўцы. Маёр М. вызначыўся ў баях за Карпаты ў жн. 1944 — лют. 1945, на тэр. Венгрыі і Чэхаславакіі. М. зрабіў 112 вылетаў на штурмоўку жывой сілы і тэхнікі ворага. Да 1950 у Сав. Арміі, падпалкоўнік.

**МАЗАЛЁЎШЧЫНА,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на ПнЗ ад в. Стралкі Асвейскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 79 чалавек. У сак. 1943, у час карнай аперацыі «Зімовае чараўніцтва», фашысты загубілі 114 жыхароў, у т. л. 43 дзіцяці, вёску (24 двары) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь*.

У. Р. Маджар. П. В. Мажэйка.





Помнік у гонар Магілёўскага падпольнага абкома КП(б)Б і Клічаўскай ваеннааператыўнай групы каля в. Усакіна Клічаўскага раёна.

**МАЗА́НІК** Алена Рыгораўна (н. 4.4. 1914, в. Паддзягцярня Пухавіцкага р-на), удзельніца *Мінскага партыйнага падполля*. Герой Сав. Саюза (1943). Засл. работнік культуры БССР (1980). Чл. КПСС з 1946. Скончыла Рэсп. парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1948), Мінскі пед. ін-т (1952). Выбухам пастаўленай ёю міны па заданні камандавання партыз. атрада «Дзіма» ў ноч на 22.9.1943 быў знішчаны кат бел. народа генеральны камісар В. Кубэ. З вер. 1943 у партызанах, потым у Маскве.

З 1948 у Міністэрстве дзярж. кантролю БССР. У 1952—60 нам. дырэктара Фундаментальнай бібліятэкі імя Я. Коласа АН БССР. Аўтар кн. «Помста» (2 выд., 1988).

**МА́ЗУРАЎ** Кірыла Трафімавіч (н. 7.4. 1914, в. Рудня-Прыбыткаўская Гомельскага р-на), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на Беларусі, сав. дзярж. і парт. дзеяч. Герой Сацыяліст. Працы (1974). Чл. КПСС з 1940. Скончыў Гомельскі аўтадарожны тэхнікум (1933), ВПШ пры ЦК ВКП(б) (1947). У 1936—39 у Чырв. Арміі, палітаддзеле Бел. чыгункі. У 1939—41 заг. аддзела Гомельскага абкома, сакратар Гомельскага гаркома, 1-ы сакратар Брэсцкага абкома ЛКСМБ. У Айч. вайну на фронце: палітрук роты, камандзір батальёна, інструктар палітаддзела 21-й арміі. З вер. 1942 да канца 1943 падпалкоўнік М. знаходзіўся на акупіраванай тэр. Беларусі са спец. заданнем: як прадстаўнік *Цэнтральнага штаба партызанскага руху* працаваў у партыз. злучэннях Мінскай, Палескай, Пінскай, Баранавіцкай і Брэсцкай абл. Быў чл. *Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б*, сакратаром ЦК ЛКСМБ. У 1943—47 2-і, 1-ы сакратар ЦК ЛКСМБ. З 1947 у апараце ЦК КП(б)Б, з 1949 2-і, 1-ы сакратар Мінскага гаркома, у 1950—53 1-ы сакратар Мінскага абкома КПБ. З 1953 Старшыня СМ БССР, з 1956 1-ы сакратар ЦК КПБ. У 1965—78 першы нам. Старшыні СМ СССР. Чл. ЦК КПСС у 1956—81. Канд. у чл. Прэзідыума ЦК КПСС з 1957, чл. Прэзідыума ЦК КПСС з 1965, чл. Палітбюро ЦК КПСС у 1966—78. Чл. ЦК КПБ у 1949—66, чл. Бюро ЦК КПБ з вер. 1952 да снеж. 1962, чл. Прэзідыума ЦК КПБ з снеж. 1962 да крас. 1965. Дэп. ВС СССР у 1950—79, з 1989; чл. Прэзідыума ВС СССР у 1958—66. Дэп. ВС БССР у 1947—67, чл. Прэзідыума БССР у 1950—53 і 1956—65. З 1986 Старшыня Усесаюзнага савета ветэранаў вайны і працы. Аўтар кн. ўспамінаў «Незабыўнае» (2 выд., 1987).


А. Р. Мазанік. К. Т. Мазураў.

**МАЗУРУ́К** Ілья Паўлавіч (20.7.1906, Брэст — 2.1.1989), Герой Сав. Саюза (1937), ген.-маёр авіяцыі (1946), заслужаны палярны лётчык (1937). Чл. КПСС з 1925. У Чырв. Арміі з 1927. У 1930—38 лётчык, камандзір атрада Грамадз. паветр. флоту і ўпраўлення Галоўпаўночморшляху. Вызначыўся ў час дастаўкі Папанінскай навуковай станцыі на Паўн. полюс (1937). У 1938—41 нач. Палярнай авіяцыі Галоўпаўночморшляху. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У 1941—42 камандзір авіягрупы ВПС Паўн. флоту, з 1943 камандзір авіядывізіі і нач. асобай паветр. трасы ВПС Аляска — Краснаярск, арганізоўваў перапраўку на фронт баявых самалётаў. З 1945 нач. упраўлення Палярнай авіяцыі і нам. нач. Галоўпаўночморшляху, нам. нач. навукова-даследчага ін-та. Дэп. ВС СССР у 1937—50.

**МАЗЫ́Р**, горад, цэнтр Мазырскага р-на, на р. Прыпяць. Чыг. ст. Мазыр. За 133 км на ПдЗ ад Гомеля. Размешчаны на аўтадарогах Калінкавічы — Корасцень, Калінкавічы — Лельчыцы. Порт на р. Прыпяць. У 1938—54 цэнтр Палескай вобл. 17,5 тыс. жыхароў у 1939. З пачаткам вайны рад прадпрыемстваў горада перайшоў на вытворчасць ваен. прадукцыі, рамонт танкаў і інш. баявой тэхнікі. У М. працаваў філіял *Школы ЦК КП(б)Б і аператыўна-навучальнага цэнтра* па падрыхтоўцы партыз. кадраў, размяшчаліся Палескі і Пінскі абкомы КП(б)Б. Горад, які быў у баку ад напрамку гал. ўдара праціўніка, доўгі час служыў базай для камуністаў, якіх пасылалі на падп. работу ў Мінскую, Пінскую і інш. вобласці і якія ў М. за кароткі тэрмін вучыліся валодаць агнястрэльнай зброяй, выбуховымі рэчывамі, атрымлівалі тут матэрыяльнае забеспячэнне і праваднікоў. Палескі абком КП(б)Б за перыяд з 22.6 да 22.8.1941 стварыў у М 8 разведвальных груп. У М. было створана 7 атрадаў нар. апалчэння, знішчальны батальён. У жн. 1941 праводзілася эвакуацыя з М. прамысловага абсталявання і насельніцтва. 22.8.1941 ням.-фаш. захопнікі акупіравалі М. Гітлераўцы ўстанавілі ў горадзе жорсткі акупацыйны рэжым, стварылі тут лагер смерці, у якім было знішчана 4730 чал.: у канцы 1941 утапілі жывымі ў палонках р. Прыпяць 700 чал.; усяго ў час акупацыі знішчылі ў М. і раёне 5884 чал., больш за 1 тыс. гаражан і звыш 1,5 тыс. жыхароў навакольных вёсак былі вывезены на катаржныя работы ў Германію. У М. і на тэр. раёна дзейнічалі *Мазырскае партыйна-камсамольскае падполле*, Мазырскія падп. райкомы КП(б)Б (25.4. 1943—8.1.1944) і ЛКСМБ (1.5.1943—8.1.1944), *партызанскі атрад Мазырскі*, атрад імя Варашылава (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 99-я Калінкавіцкая), партызанская брыгада Мазырская імя Аляксандра Неўскага;* выдаваліся падп. газеты *«Бальшавік Палесся»*, *«За Радзіму»*. За гады акупацыі ням.-фаш. захопнікі разбурылі ў М. ўсе прамысловыя і культурна-асветныя ўстановы. Толькі камунальная гасцадарка горада панесла страты на суму 3210450 руб.

На час вызвалення М. ў ім засталося 4,7 тыс. жыхароў. Вызвалены 14.1.1944 воінамі 55-й стралк. дывізіі (камандзір палк. М. М. Заіюльеў) 89-га стралк. корпуса, 415-й стралк. дывізіі (палк. П. І. Машчалкаў), 3-й гвардз. кав. дывізіі (ген.-маёр М. Д. Ягадзін) 2-га гвардз. кав. корпуса, 16-й гвардз. (ген.-маёр Р. А. *Бялоў*), 15-й гвардз. (ген.-маёр І. Ц. Чаленка) і 14-й гвардз. кав. (палк. Р. П. Каблоў) дывізій, 1816-га самаходнага арт. палка (падпалк. М. П. Рыжанаў), 7-га гвардз. кав. корпуса 10-й гарматнай арт. брыгады (ген.-маёр А. І. Бруханаў), 21-й лёгкай арт. брыгады (палк. В. М. Іваноў), 2-й мінамётнай брыгады (падпалк. А. М. Аляксееў) 6-й арт. дывізіі прарыву (ген.-маёр арт. А. С. Біцюцкі) 61-й арміі пры падтрымцы 234-й знішчальнай авіяц. дывізіі 16-й паветр. арміі Бел. фронту ў выніку *Калінкавіцка-Мазырскай аперацыі 1944* сумесна з Мазырскай імя Аляксандра Неўскага партыз. брыгадай. 18 вайсковым часцям і злучэнням, якія ўдзельнічалі ў вызваленні М., прысвоены ганаровыя найменні «Мазырскіх» (гл. *Мазырскія вайсковыя злучэнні і часці*). У М. брацкая магіла падпольшчыкаў і брацкія магілкі сав. воінаў і партызан, на якіх устаноўлены помнікі; помнікі рабочым металаапрацоўчай арцелі «Молат», работнікам дрэваапрацоўчага камбіната, якія загінулі ў барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі, у гонар сав. лётчыкаў, што ўдзельнічалі ў Калінкавіцка-Мазырскай аперацыі 1944; мемар. дошкі ўстаноўлены на будынках, дзе размяшчаліся ў пач. вайны прызыўны пункт ваен. камісарыята, у 1941—42 явачная кватэра падпольшчыкаў, у 1944—45 палявы шпіталь, таксама мемар. дошкі сав. воінам, якія вызвалялі горад, працаўнікам Мазырскага тэхнічнага ўчастка Верхнедняпроўскага басейнавага кіраўніцтва рачнога параходства, што загінулі ў гады Вял. Айч. вайны, падпольшчыку Я. І. Талкачову. Працуе Мазырскі краязнаўчы музей.

*Н. У. Капранава.*

**МАЗЫ́РСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з восені 1941 да студз. 1944 у Мазыры і Мазырскім р-не, з лют. 1943 пад кіраўніцтвам *Палескага падпольнага абкома КП(б)Б*, з крас. 1943 і Мазырскага падп. РК КП(б)Б. У вер. 1941 падп. групу стварылі В. І. Крыцкі, М. Ю. Майсееў, А. І. Савіч. Крыцкі ўладкаваўся бургамістрам

Мазыра, Майсееў — нам. бургамістра па Мазырскім р-не, А. Г. Папрацінская — перакладчыцай у гебітскамісарыяце. З іх дапамогай падпольшчыкі ратавалі сав. грамадзян ад вывазу на катаржныя работы ў Германію, зрывалі мерапрыемствы акупац. улад. Падпольшчыкі перадавалі партызанам медыкаменты, харчы, папярэджвалі аб карных аперацыях. У кастр. 1941 створана група Дз. А. Казлоўскага і С. П. Ракіцкага, якая здабывала і перадавала партызанам зброю і боепрыпасы, вяла паліт. агітацыю сярод насельніцтва. У жн. 1942 тыя з падпольшчыкаў, што пазбеглі арышту, пайшлі ў партызаны. У ліп. 1943 створана падп. група А. С. Мураўёва, якая ўстанавіла сувязь з партызанамі і рэгулярна перадавала па радыё звесткі разведкі камандаванню Чырв. Арміі.

У барацьбе з акупантамі загінулі: М. С. Казарэз, В. І. Крыцкі, А. І. Крукоўскі, А. П. Кузьміч, А. І. Міцура, М. Ю. Майсееў, А. Г. Папрацінская, С. П. Раднеўскі, А. П. Суркоў. У Мазыры на магіле падпольшчыкаў пастаўлены абеліск. *А. А. Кузняеў.*

**МАЗЫРСКІ КАВАЛЕРЫЙСКІ ПОЛК** гвардзейскі ордэна Леніна, Чырванасцяжны, ордэнаў Суворава, Кутузава і Аляксандра Неўскага. Сфарміраваны ў 1918 у Арэнбургу як 1-ы Савецкі працоўнага казацтва полк. Вызначыўся ў грамадз. вайну, узнаг. ордэнам Чырв. Сцяга (1924). Перад Айч. вайной наз. 103-і горна-кав. полк, у складзе 20-й горна-кав. дывізіі (у вер. 1943 перайменавана ў 17-ю гвардз. кав. дывізію). З ліст. 1941 на Зах. фронце. Удзельнічаў у складзе 2-га гвардз. кав. корпуса ген.-маёра Л. М. *Даватара* ў Маскоўскай бітве, у Ржэўска—Сычоўскай, Арлоўскай і Бранскай аперацыях. Вызначыўся ў баях пры фарсіраванні р. Дзясна, перайменаваны ў 59-ы гвардз. кав. полк. У складзе 17-й гвардз. кав. дывізіі полк 20.10. 1943 фарсіраваў р. Дняпро ў раёне Лоева і ў ліст. 1943 удзельнічаў у *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943*, у студз. 1944— у *Калінкавіцка-Мазырскай аперацыі 1944.* У складзе войск 1-га Бел. фронту ўдзельнічаў у *Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944*, фарсіраванні р. Зах. Буг, вызваленні Польшчы, узнаг. ордэнам Аляксандра Неўскага (12.8.1944). Прымаў удзел у Варшаўска-Пазнанскай, Усх.-Памеранскай і Берлінскай аперацыях, 3.5.1945 з баямі выйшаў на ўсх. бераг р. Эльба. Палку перайшлі ганаровае найменне 17-й дывізіі «Мазырскі», а таксама ордэны Леніна, Суворава II ступені і Кутузава II ступені. За гады вайны каля 800 яго воінаў узнаг. ордэнамі і медалямі СССР, 3 з іх прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

Камандзіры: маёр, з сак. 1942 падпалк., з ліст. 1942 палк. Д. Е. Каліновіч (чэрв. 1941— люты 1943), маёр П. Е Фількін (люты — крас. 1943), маёр, з крас. 1943 падпалк. І. П. Ціхапаў (крас. 1943 — студз. 1944), палк. І. А. Машталер (люты — май 1944), маёр О. А. Раеўскі (май — снеж. 1944), падпалк. С. П. Журба (снеж. 1944— да канца вайны). *М. І. Камінскі.*

**МАЗЫРСКІЯ ВАЙСКОВЫЯ ЗЛУЧЭННІ І ЧАСЦІ.** За вызваленне г. Мазыра (14.1.1944) у ходзе *Калінкавіцка-Мазырскай аперацыі 1944* загадам ВГК ад 15.1.1944 ганаровае найменне «Мазырскіх» атрымалі 18 злучэнняў і часцей 61-й арміі і 16-й паветр. арміі Бел. фронту.

Часці і злучэнні, якім нададзены ганаровыя найменні «Мазырскіх»: 55-я (палк. М. М. Заіюльеў) і 415-я (палк. П. І. Машчалкоў) стралк. дывізіі, 6-я арт. дывізія прарыву (ген.-маёр А. С. Біцюцкі), 3-я (ген.-маёр М. Д. Ягодзін), 4-я (ген.-маёр Р. І. Панкратаў), 14-я (палк. Р. П. Коблаў), 15-я (ген.-маёр І. Ц. Чаленка) і 17-я (ген.-маёр П. Т. Курсакоў) гвардз. кав. дывізіі, 234-я знішчальная авіяц. дывізія (палк. Я. З. Татанашвілі), 145-ы гвардз. знішчальны процітанк. арт. полк (палк. С. Ф. Лобыраў), 1816-ы самаходны арт. полк (падпалк. М. П. Рыжанаў), 6-ы (палк. М. І. Мурзаеў) і 7-ы (маёр М. В. Пярфір'еў) гвардз. мінамётныя палкі, 79-ы гвардз. (маёр У. Я. Нядзелька) і 519-ы (маёр К. М. Мурга) знішчальныя авіяц. палкі, 810-ы асобны рэактыўны арт. дывізіён (маёр С. Я. Салаўёў), 20-ы асобны агнямётны батальён (маёр М. М. Сакалоў), 344-ы інж. батальён (капітан Г. У. Дзёмін). Войскам, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Мазыра, загадам ВГК ад 14.1.1944 абвешчана падзяка, у Маскве дадзены салют 20 арт. залпамі з 224 гармат. *М. І. Камінскі.*

**МАЙ,** вёска на тэр. Асіповіцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася ў Замошскім сельсавеце. Перад вайной у ёй жыло 57 чал. 14.1.1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 51 жыхара, вёску (17 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**МАЙСЕЕЎ** Іван Цімафеевіч (16.8. 1910, в. Вялюнь Брэсцкага р-на — 12.2.1976), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1939. З 1943 на 2-м Укр. фронце. Удзельнік вызвалення Украіны, Румыніі, Чэхаславакіі. Вызначыўся пры фарсіраванні р. Ціса на тэр. Венгрыі. 6.11.1944 батальён на чале з капітанам М. пад варожым агнём пераправіўся цераз раку, выбіў праціўніка з траншэй, прайшоў з баямі 18 км, захапіў у палон 180 гітлераўцаў. Пасля вайны працаваў у г. Марыінск Кемераўскай вобл.

**«МАЙСКАЯ НАВАЛЬНІЦА»** («Maigewitter»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партызан і мясцовага насельніцтва ў Віцебскім, Гарадоцкім, Суражскім і Лёзненскім р-нах (у трохвугольніку Віцебск — Гарадок — Сураж) 17 — 22.5.1943.

Праводзілася сіламі 87-й пях., 4-й авіяпалявой дывізій, 8-й танк. брыгады, 9 ахоўных батальёнаў, батальёна СС «Мёртвая галава». Да карнай аперацыі была прыцягнута паліцыя з Лёзненскага і Папізоўскага (Смаленскай вобл.) р-наў. Пры ўсіх часцях і буйных падраздзяленнях знаходзіліся рэквізіцыйныя каманды з групы гасп. каманды 206 (Віцебск). Усяго ў аперацыі ўдзельнічала больш за 20 тыс. гітлераўцаў. Карнікам процістаялі партыз. брыгады 1-я і 2-я Бел., імя Панамарэнкі, дыверсійная Бел. імя Леніна, 1-я Віцебская, імя А. Ф. Данукалава, імя Чырванасцяжнага Ленінскага камсамола агульнай колькасцю 2,5 тыс. чал.

Праціўніку ўдалося выцесніць партызан з раёнаў іх дыслакацыі, пасля чаго карнікі прыступілі да рабавання і распраў. Яны расстралялі больш за 2400 чал., захапілі 350 кароў і коней, 150 ц збожжа. *В. С. Лазебнікаў, У. С. Пасэ.*

I. П. Мазурук. І. Ц. Майсееў.



**МАЙСТРЭНКА** Барыс Аляксандравіч (1.12.1924, г. Асіповічы — 15.1.1945), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. ВЛКСМ. Скончыў Харкаўскае танк. вучылішча (1943). З ліп. 1943 на Ленінградскім фронце. Камандзір танка лейтэнант М. вызначыўся ў чэрв. 1944 у час прарыву абароны праціўніка на Карэльскім перашыйку і вызвалення г. Выбарг. У баі прыняў на сябе камандаванне ротай. Экіпаж танка М. знішчыў 3 доты, 8 дзотаў, 15 гармат, 20 кулямётаў, 10 мінамётаў і больш за 150 гітлераўцаў. Памёр ад ран. Яго імем названы вуліца ў Асіповічах і сярэдняя школа № 1 у Ноўгарадзе-Северскім Чарнігаўскай вобл., дзе ён вучыўся.

**МАЙХРОВІЧ** Сцяпан Казіміравіч (21. 6.1908, в. Старэва Слуцкага р-на — 1.7.1981), журналіст, бел. сав. крытык і літаратуразнавец. Канд. філалагічных навук (1959). Чл. КПСС з 1928. Скончыў Мінскі пед. ін-т (1941). У 1940—41 адказны рэдактар рэсп. газ. «Sztandar Wolności» («Сцяг свабоды»). З чэрв. да канца 1941 на фронце, ст. інструктар паліталдзела 10-й арміі, потым гал. рэдактар Цэнтральнабел. радыёвяшчання ў Маскве. З жн. 1943

у партызанах, чл. *Беластоцкага падпольнага абкома КП(б)Б*, рэдактар газ. *«Белостокская правда»*. У 1944—48 дырэктар Дзярж. выдавецтва БССР, у 1951—54 рэдактар Вучэбнапед. выдавецтва БССР, 1959—70 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.

**МАКАВЕ́ЦКІ** Фёдар Яфрэмавіч (25.2. 1899, в. Багданаўка Талачынскага р-на — 7.5.1974), Герой Сав. Саюза (1943). У Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз. вайны. У Айч. вайну з 1942 на Паўд.-Зах., Варонежскім, Сталінградскім, Данскім, Цэнтр., Бел., 1-м і 4-м Укр. франтах. Удзельнік Сталінградскай і Курскай бітваў. Камандзір стралк. палка падпалкоўнік М. вызначыўся пры фарсіраванні Дзясны і Дняпра на Пн ад Кіева. 21.9.1943 полк на чале з М. пераадолеў Дзясну, замацаваўся на правым беразе і забяспечыў пераправу дывізіі; 24.9.1943 на падручных сродках фарсіраваў Дняпро і замацаваўся на плацдарме. Да 1947 у Сав. Арміі, падпалкоўнік.

**МАКА́РАНКА** Іван Раманавіч (19.6. 1907, в. Гута Веткаўскага р-на — 16.5.1971), поўны кавалер ордэна Славы. З 1943 на 1-м Укр., 1-м, 3-м Прыбалт., 1-м Бел. франтах. Удзельнік вызвалення Украіны, Беларусі, Польшчы, баёў у Германіі. Пам. камандзіра сапёрнага ўзвода ст. сяржант М. пры вызваленні Украіны 16.3.1944 з 4 групамі сапёраў зрабіў праходы ў драцяных загародах праціўніка для наступаючых падраздзяленняў палка, у час адбіцця контратак знішчыў 12 гітлераўцаў. Летам 1944 на падыходзе да Пінска пабудаваў з сапёрамі пераправы цераз рэкі Стыр, Прыпяць, Ясельда, зняў 43 процітанк. міны. 17.4.1945 пры фарсіраванні р. Одэр з узводам сапёраў зрабіў плыт, на якім пераправіў артылерыю і транспарт. Пасля вайны жыў і працаваў на радзіме.

**МАКА́РАЎ** Валянцін Мікалаевіч (30. 8.1919, г. Севастопаль — 20.5.1978), Герой Сав. Саюза (1943), ген.-маёр авіяцыі (1954). Чл. КПСС з 1942. Скончыў Качынскую ваен. авіяц. школу пілотаў (1939), Ваен. акадэмію Генштаба (1956). З чэрв. 1941 на Паўд.-Зах., Зах., Сталінградскім, Данскім, Цэнтр., 1-м Бел. франтах. Удзельнік ліквідацыі *бабруйскага «катла»*, вызвалення Бабруйска, Мінска, Баранавіч, Брэста, баёў у Польшчы, Германіі. Камандзір знішчальнага авіяпалка маёр М. зрабіў 635 баявых вылетаў, удзельнічаў у 150 паветр. баях, асабіста збіў 30 і ў складзе групы 9 самалётаў праціўніка. Да 1976 у Сав. Арміі, пасля жыў у Мінску.

**МАКА́РАЎ** Васіль Емяльянавіч (27.2. 1903, Масква — 1.9.1975), ген.-лейтэнант (1944). Чл. КПСС з 1928. Скончыў Маскоўскі прамыслова-эканамічны ін-т (1930). З 1933 на выкладчыцкай і парт. рабоце ў Маскве, з 1940 нам. наркома Дзяржкантроля СССР. З жн. 1941 чл. ваен. савета Бранскага, нач. палітупраўлення Зах. франтоў, з крас. 1944 чл. ваен. савета 3-га Бел. фронту, які ўдзельнічаў у *Беларускай аперацыі 1944*. У 1945—46 чл. ваен. савета Баранавіцкай ваен. акругі. Да 1962 на ваенна-паліт. рабоце ў Сав. Арміі. Дэп. ВС СССР у 1946—50.

**МАКА́РАЎ** Мікалай Акімавіч (1.12. 1905, Віцебск — 27.6.1975), Герой Сацыяліст. Працы (1943). Чл. КПСС з 1939. Удзельнік грамадз. вайны. З 1923 працаваў на чыг. ст. Віцебск, з 1933 — у Віцебскім аддзяленні Зах. чыгункі. У 1941—43 узначальваў ваенна-эксплуатацыйнае аддзяленне, цягніковую калону № 3 асобнага рэзерву Наркамата шляхоў зносін, прымаў удзел у ваен. перавозках і забеспячэнні франтавых вайсковых часцей пад Масквой, Сталінградам, Курскам, Віцебскам і інш. У 1943—44 нач. Віцебскай аператыўнай групы чыгуначнікаў Віцебскага аддзялення чыгункі. З 1944 працаваў у Віцебскім аддзяленні Бел. чыгункі. Званне Героя прысвоена за выкананне заданняў ваен. камандавання на франтавых перавозках. Ганаровы чыгуначнік. Ганаровы грамадзянін г. Віцебска (1967). Яго імем названа вуліца ў Віцебску.

**МАКА́РАЎ** Пётр Кузьміч (23.2.1916, в. Крутбай Усманскага р-на Ліпецкай вобл.—24.3.1961), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1943. З чэрв. 1941 на фронце. У партызанах з лют. 1942: камандзір групы, з сак. 1942 атрада, у ліст. 1943— ліп. 1944 *партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава*. З 1944 на сав. і адм.-гасп. рабоце ў Гродзенскай вобл. Яго імем названа вуліца ў г. п. Дзятлава.


Б. А. Майстрэнка. Ф. Я. Макавецкі. І. Р. Макаранка. В. М. Макараў. В. Е. Макараў. І. А. Макіёнак.

**МАКА́РАЎ** Рыгор Васілевіч (5.2.1904, с. Ніжняе Лапаціна Тарускага р-на Калужскай вобл.— 20.5.1954), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1927. З 1924 на камсам. і прафс. рабоце. З ліп. 1941 на Зах. фронце, камісар палка. У партызанах з кастр. 1942: камандзір групы, камісар атрада, у крас. 1943 — ліп. 1944 *партызанскай брыгады Ленінскай*, адначасова ў жн. 1943 — ліп. 1944 сакратар Дзятлаўскага падп. РК КП(б)Б.

**МАКА́РЫЧАЎ** Міхаіл Іванавіч (н. 2.6. 1919, в. Гуляеўка Сурскага р-на Ульянаўскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1944), ген.-лейтэнант (1971). Чл. КПСС з 1941. Скончыў Сумскае арт. вучылішча (1938), Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1954). З 1941 на Паўд.-Зах., Данскім, Варонежскім, 1-м, 2-м Прыбалт., Ленінградскім франтах. Удзельнік абароны Кіева, Сталінградскай і Курскай бітваў, вызвалення Беларусі, Літвы, Латвіі. Вызначыўся ў *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944*. 24.6.1944 знішчальны процітанк. арт. полк пад камандаваннем М. выйшаў да Зах. Дзвіны каля в. Лабейкі Бешанковіцкага р-на. Пад агнём праціўніка М. умела арганізаваў пераправу палка, захоп і пашырэнне плацдарма. Да 1976 у Сав. Арміі.

**МА́КАЎЕ**, вёска на тэр. Асіповіцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 10 км на ПнЗ ад в. Лазавое Пагарэльскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 248 чал. 8.1.1943, у час карнай аперацыі *«Франц»*, фашысты загубілі 278 жыхароў, у т. л. 53 дзяцей, вёску (48 двароў) спалілі.

Пасля вайны не адрадзілася. У 1968 на яе месцы пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь*.

**МАКІЕНАК** Іван Андрэевіч (15.7.1914, в. Гарадзілавічы Верхнядзвінскага р-на — 28.3.1944), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1944. У Чырв. Арміі з 1936. З 1941 у Чарнаморскім флоце. Удзельнік абароны Севастопаля, вызвалення Марыупаля, Новарасійска, Бярдзянска. Нам. камандзіра аддзялення аўтаматчыкаў асобнага батальёна марской пяхоты старшына 2-й стацці М. вызначыўся ў час дэсантнай аперацыі ў г. Мікалаеў. У ноч на 26.3.1944 атрад дэсантнікаў з 68 чал., у складзе якога быў М., па р. Паўд. Буг зайшоў у тыл ворагу, высадзіўся ў порце, двое сутак вёў з праціўнікам няроўны бой, адбіў 18 контратак, знішчыў каля 700 гітлераўцаў. Загінуў у гэтым баі. У Мікалаеве ў гонар дэсантнікаў — Герояў Сав. Саюза — пабудаваны мемар. комплекс, названа плошча.

**МАКСІМЕНКА** Аляксей Пятровіч (5.10.1905, г. Орск Арэнбургскай вобл.— 10.3.1959), актыўны ўдзельнік Віцебскага і Аршанскага партыйна-камсам. падполля. Чл. КПСС з 1927. У 1932—41 нач. Полацкага і Аршанскага аддзелаў НКУС. З крас. да ліст. 1942 кіраўнік аператыўна-чэкісцкай групы, якая дзейнічала ў раёне Віцебска. З мая 1943 да сак. 1944 камандзір разведвальна-диверсійнага атрада «Няўлоўныя» і нам. камандзіра па разведцы партыз. брыгады імя Заслонава. Разведчыкі на чале з ім, падпольшчыкі і сувязныя здабылі і склалі больш як 200 схем, карт і пісьмовых паведамленняў пра вайсковыя часці, аэрадромы, склады, абарончыя ўмацаванні праціўніка, зрабілі шэраг дыверсій на аб'ектах акупантаў. У 1944—52 у органах КДБ Беларусі.

**МАКСІМЧА** Іван Васілевіч (14.9.1922, в Нікалаеўка Міякінскага р-на Башкірскай АССР—26.4.1985), Герой Сав. Саюза (1945). Беларус. З 1943 на Бранскім, Ленінградскім, 2-м Прыбалт. франтах. Лётчык-штурмавік, камандзір авіяэскадрыллі капітан М. зрабіў 136 баявых вылетаў, знішчыў 3 варожыя самалёты, 4 танкі, 20 гармат, 30 аўтамашын, 4 склады, паравоз, 11 вагонаў і больш як 550 гітлераўцаў. З 1946 у Грамадз. авіяцыі і Рэсп. штабе грамадз. абароны Башкірскай АССР, на адм.-гасп. рабоце.

**МАЛАДЗЕЧАНСКАЕ КАМСАМОЛЬСКА-МАЛАДЗЁЖНАЕ ПАДПОЛЛЕ**. Дзейнічала на чыг. ст. Маладзечна з лют. 1942 да ліп. 1944. Налічвала 7 чал. Кіраўнік Д. Я. Гярновіч («Марак»). З снеж. 1942 падтрымлівала сувязь з партыз. брыгадай імя Чкалава, пазней — са спецатрадам «Дзіма».

Падпольшчыкі распаўсюджвалі лістоўкі і зводкі Саўінфармбюро, вялі агітацыю сярод насельніцтва, збіралі і перадавалі партызанам звесткі аб саставе і ўзбраенні гарнізона, аб руху войск і тэхнікі праз чыг. вузел. «Паштовая скрынка» для перадачы партызанам разведданых знаходзілася ў раёне в. Самалі. З дапамогай мін, атрыманых ад партызан, падпольшчыкі правялі каля 20 буйных дыверсій. Д. Я. Гярновіч 4.6.1943 на ст. Маладзечна падарваў склад гаруча-змазачных матэрыялаў, у ліп.— чыг. састаў у в. Шнуры, рух быў затрыманы на 12 гадзін. У жн. 1943 і лютым 1944 М. С. Вышыдкевіч падарваў 2 чыг. саставы, 29.9.1943— паваротны круг у дэпо. У кастр. 1943, лютым і крас. 1944 І. І. Гярновіч і М. А. Лушчык падарвалі варожыя эшалоны. Падпольшчыкі ажыццяўлялі дыверсіі і на шашэйных дарогах.

У Маладзечне на будынку чыг. вакзала ў 1974 у гонар падпольшчыкаў устаноўлена мемар. дошка.

*Ю. А. Капіца.*

**МАЛАДЗЕЧАНСКІ ЛАГЕР СМЕРЦІ** (шталаг № 342). Створаны ням.-фаш. акупантамі ў ліп. 1941 у Маладзечне (3 лагеры, 13 аддзяленняў на чыг. лініях) для масавай загубы сав. ваеннапалонных; на працягу 1941 тут трымалі і цывільнае насельніцтва, пастаянна было каля 30 тыс. чал.

Лагер быў абгароджаны калючым дротам. Вязні размяшчаліся ў бараках без ацяплення, за суткі атрымлівалі на чалавека 100 г эрзац-хлеба і 1 л баланды. Ад фізічнага знясілення, голаду, эпідэміі тыфу і інш. хвароб пачалася масавая смяротнасць. Сістэматычна праводзіліся расстрэлы вязняў. За час існавання лагера да чэрв. 1944 тут загублена 33 150 чалавек.

*А. А. Фактаровіч.*

**МАЛАДЗЕЧАНСКІЯ ВАЙСКОВЫЯ ЗЛУЧЭННІ І ЧАСЦІ**. За вызваленне г. Маладзечна (5.7.1944) у ходзе *Вільнюскай аперацыі 1944* загадам ВГК ад 23.7.1944 ганаровае найменне «Маладзечанскіх» атрымалі 13 злучэнняў і часцей 11-й гвардз. арміі, конна-механіз. групы і 1-й паветр. арміі 3-га Бел. фронту.

Часці і злучэнні, якім нададзены ганаровыя найменні «Маладзечанскіх»: 311-я штурмавая авіяц. дывізія (палк. В. В. Васільеў), 8-я (палк. С. Д. Крэмер) і 9-я (падпалк. А. Ф. Сакалоў) гвардз. механіз. брыгады, 129-ы мінамётны полк (маёр С. С. Барвінскі), 366-ы зенітны (падпалк. П. К. Кузняцоў), 1510-ы (падпалк. Р. Г. Шукакідзе) і 1823-і (падпалк. В. В. Яблакаў) самаходныя арт. палкі, 689-ы армейскі знішчальны проціганк. арт. полк (падпалк. І. С. Гужва), 326-ы гвардз. мінамётны полк (падпалк. І. В. Калошын), 126-ы гвардз. бамбардзіровачны авіяц. полк (падпалк. М. А. Жывалуп), 624-ы штурмавы авіяц. полк (маёр І. М. Кухараў), 409-ы асобны гвардз. мінамётны дывізіён (маёр М. А. Калупаеў), 1-ы асобны гвардз. матацыклетны батальён (маёр П. М. Кірычэнка). Войскам, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Маладзечна, загадам ВГК ад 5.7.1944 абвешчана падзяка, у Маскве дадзены салют 12 арт. залпамі з 124 гармат.

*М. І. Камінскі.*

**МАЛАДЗЕЧНА**, горад, цэнтр Маладзечанскага р-на, на р. Уша (прыток Віліі). За 73 км на ПнЗ ад Мінска, вузел чыгунак (на Мінск, Вільнюс, Полацк, Ліду), аўтадарогамі звязана з Мінскам, Вільнюсам, Мядзелам, Валожынам. Аэрапорт. 6,6 тыс. жыхароў у 1939. У першыя дні вайны ў раёне М. з намнога большымі сіламі праціўніка вялі баі воіны падраздзяленняў 50-й стралк., 5-й танк. дывізій 3-га механіз. корпуса, 84-га стралк. палка войск НКУС, курсанты Вільнюскага пях. вучылішча. 26.6.1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы знішчылі ў горадзе і раёне 34 718 чал., у т. л. ў *Маладзечанскім лагеры смерці* — 33 150 чал. Дзейнічала *Маладзечанскае камсамольска-маладзёжнае падполле.* У 1942 партызаны спалілі ў М. склад збожжа і сена, у снеж. 1942 узарвалі апаратную тэлеграфа, у выніку на некалькі сутак была перарвана сувязь паміж Берлінам і франтавым камандаваннем. Зімой 1942—43 падпольшчыкі чыг. вузла ўзарвалі паваротны круг і водапанорную станцыю і надоўга вывелі вузел са строю. У горадзе і раёне дзейнічалі Маладзечанскія падп. райкомы КП(б)Б (4.12.1943—28.6.1944) і ЛКСМБ (4.12.1943—5.7.1944), партыз. брыгады «За Радзіму», імя Будзённага (Вілейская вобл.), 2-я імя Суворава, асобны партыз. атрад імя Катоўскага, партыз. спецгрупа «Знішчальнік» (гл. адпаведныя артыкулы); выдавалася падп. газ. *«Чырвоны сцяг»*. Вызвалена 5.7.1944 часткай сіл 31-й гвардз. стралк. дывізіі (ген.-маёр І. К. Шчарбіна) 16-га гвардз. стралк. корпуса, воінамі 4-й гвардз. лёгкай арт. брыгады (палк. У. І. Кобзеў) і 5-й гвардз. гаўбічнай арт. брыгады (палк. А. П. Русецкі) 2-й гвардз. арт. дывізіі прарыву 11-й гвардз. арміі, 6-й гвардз. кав. дывізіі (палк. П. П. Брыкель) і 198-га асобнага танк. палка (падпалк. К. М. Карпаў) 3-га гвардз. кав. корпуса, часткай сіл 8-й гвардз. механіз. брагады (палк. С. Д. Крэмер) 3-га гвардз. механіз. корпуса конна-механіз. групы, воінамі 25-й танк. брыгады (падпалк. І. П. Мішчанка) 29-га танк. корпуса 5-й гвардз. танк. арміі, часткай сіл 265-й (палк. А. А. Карагін) і 278-й (падпалк. К. Дз. Арлоў) знішчальных авіядывізій 1-й паветр. арміі, часткай сіл 36-й і 48-й авіядывізій 8-га авіякорпуса авіяцыі далёкага дзеяння 3-га Бел. фронту пры ўдзеле *партызанскай брыгады «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Воранянскага* (камандзір Г. Ф. Пакроўскі) у ходзе *Вільнюскай аперацыі 1944.* 13 воінскім злучэнням і часцям нададзены ганаровыя найменні «Маладзечанскіх» (гл. *Маладзечанскія вайсковыя злучэнні і часці*). У М. брацкая магіла сав. воінаў, партызан, парт. і сав. работнікаў, магіла ахвяр фашызму,

на якіх пастаўлены помнікі; мемар. комплекс у гонар вызваліцеляў; помнікі ахвярам фашызму, у гонар войск 3-га Бел фронту, Героям Сав. Саюза А. І. *Валынцу* і Ф. Р. *Маркаву*; мемар. дошкі ахвярам фашызму, 1-му сакратару Маладзечанскага РК КП(б)Б І. Д. Таміліну, расстралянаму ў 1941 ням.-фаш. акупантамі, падпольшчыкам. Працуе *Мінскі абласны краязнаўчы музей.*

*В. В. Гетаў.*

**МАЛАКО́ВІЧ** Марына Фядосьеўна (1903, в. Зубарэвічы Глускага р-на — жн. 1943), адзін з арганізатараў *Мінскага партыйнага падполля.* Чл. КПСС з 1927. Скончыла акадэмію камуніст. выхавання імя Крупскай (1932). З 1924 на камсам. рабоце ў Глускім, Жлобінскім і Бабруйскім р-нах; працавала ў Ін-це сав. права, Ін-це гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б, БПІ. У час ням.-фаш. акупацыі адзін з арганізатараў падп. групы з б. студэнтаў і выкладчыкаў Мінскага юрыдычнага ін-та; узначальвала *Каладзішчанскае партыйна-камсамольскае падполле.* Схоплена фашыстамі ў час падрыхтоўкі дыверсіі і закатавана. Яе імем названа вуліца ў пас. Калодзішчы Мінскага р-на; у в. Зелянковічы Глускага р-на на будынку бібліятэкі мемар. дошка.

**МАЛА́НДЗІН** Герман Капітонавіч (15.12.1894, г. Нолінск Кіраўскай вобл.— 27.10.1961), ген. арміі (1948). Чл. КПСС з 1940. У Чырв. Арміі з 1918. У грамадз. вайну камандзір палка. Скончыў Ваен. акадэмію Генштаба (1938). Удзельнік абарончых баёў на Беларусі ў 1941: нач. штаба Зах. фронту і войск Зах. напрамку, нам. нач. штаба Зах. фронту. З ліст. 1941 нач. кафедры Ваен. акадэміі Генштаба. У 1943—45 нач. штаба 13-й арміі 1-га Укр. фронту. Пасля вайны на камандных пасадах у Сав. Арміі.

**«МАЛА́НКА»** («Blitz»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партыз. брыгады Сіроцінскай (гл. *Партызанская брыгада імя С. М. Кароткіна)* і мясцовага насельніцтва ў Бешанковіцкім і Сіроцінскім р-нах (у міжрэччы Зах. Дзвіны і Обалі, уздоўж чыг. Віцебск — Полацк) 23.9—4.10.1942.

Праводзілася сіламі 201-й ахоўнай дывізіі, іх падтрымлівалі бронецягнік і паліцэйскія падраздзяленні мясцовых гарнізонаў. 23 вер. праціўнік пачаў наступленне з боку Шуміліна на Пд і ПдЗ, разлічваючы акружыць брыгаду, рассячы яе асн. сілы і знішчыць на Пн каля чыгункі і на правым беразе Зах. Дзвіны ад в. Вусвіца да в. Астраўляны (Ушацкі р-н), дзе былі створаны лініі загараджэння. Асноўныя сілы брыгады своечасова адышлі за р. Обаль і занялі абарону на яе правым беразе, у акружэнні засталіся атрады 4-ы (камандзір Дз. М. Ляўковіч, камісар А. Б. Эрдман) і 3-і (камандзір В. Р. Несцераў, камісар А. У. Сіпко). 4-ы атрад 3 сутак вёў бой у акружэнні, а потым, пакінуўшы невял. заслон (2 сутак адцягваў на сябе сілы праціўніка), прарваўся да в. Залужжа. Мясцовыя жахары вывелі атрад да в. Грабянцы ў тыл карнікам.

3-і атрад быў акружаны гітлераўцамі на У ад в. Шашы, разам з партызанамі ў лесе хавалася каля 3 тыс. мясцовых жыхароў. Праціўнік вёў масіраваны арт. агонь, а потым густымі ланцугамі пачаў прачэсваць лес. Да 3 кастр. ў партызан скончыліся патроны. Адбіваючыся апошнімі гранатамі, несучы вял. страты, атрад, прыкрываючы старых, жанчын і дзяцей, быў вымушаны адыходзіць да Зах. Дзвіны, дзе размяшчаліся фаш. сілы загараджэння. У гэты час эскадрылля сав. штурмавікоў наносіла ўдары па ст. Полацк і Гараны. Вяртаючыся з задання, лётчыкі заўважылі вял. колькасць гітлераўцаў на беразе ракі і абстралялі іх з брыючага палёту. Карнікі пачалі ў паніцы разбягацца. Выкарыстоўваючы зрушэнне праціўніка, партызаны з часткай насельніцтва фарсіравалі раку і вайшлі ў размяшчэнне атрада «Смерць фашызму» (гл. *Партызанская брыгада імя В. І. Чапаева*). Пацярпеўшы няўдачу ў час аперацыі, карнікі загубілі 567 сав. грамадзян, спалілі 9 вёсак. Пасля аперацыі «М.» Сіроцінскі падп. РК КП(б)Б прыняў спец. пастанову «Аб рассяленні і ўладкаванні сем'яў, якія пацярпелі ад злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў». Дзеці-сіроты былі размеркаваны сярод мясцовых жыхароў і партыз. атрадаў. Карту гл. на стар. 180.

*У. С. Пасэ.*

**«МАЛА́НКАВАЯ ВАЙНА́»,** бліцкрыг (ням. Blitzkrieg ад Blitz маланка, Krieg вайна), тэорыя вядзення агрэсіўных войнаў, створаная германскімі мілітарыстамі ў пач. 20 ст. і пакладзеная ў аснову ваен. стратэгіі Германіі ў 1-й і 2-й сусв. войнах. Паводле гэтай тэорыі, перамога павінна быць дасягнута ў найкарацейшы тэрмін, інакш ваен. патэнцыял Германіі можа аказацца недастатковым. Важнейшыя палажэнні «М. в.»: апярэджанне праціўніка ў сканцэнтраванні і разгортванні войск; дасягненне поўнай перавагі ў сілах на гал. напрамку; забеспячэнне аператыўна-стратэгічнай раптоўнасці; дэзарганізацыя тылу і кіравання войскамі праціўніка дыверсійна-тэрарыстычнымі групамі; нанясенне максімальна магутнага першага ўдару ў мэтах дасягнення ў пачатковых бітвах рашаючага поспеху; знішчэнне ўзброеных сіл праціўніка шляхам іх рассячэння і акружэння ў выніку імклівых дзеянняў буйных груповак танкаў і мотапяхоты (канцэпцыя «танкавай» вайны, паводле якой зыход бітвы і вайны ў цэлым залежыць выключна ад баявой моцы танк. злучэнняў).

Неад'емныя элементы тэорыі і практыкі «М. в.»— вераломства, грубае парушэнне норм міжнар. права, злачынныя метады вядзення вайны. Канкрэтнае ўвасабленне дактрына «М. в.» знайшла ў плане *«Барбароса»*. Стратэгія «М. в.», якая забяспечвала фаш. Германіі ў пач. 2-й сусв. вайны лёгкую перамогу над бурж. дзяржавамі Зах. Еўропы, аказалася зусім беспадстаўнай і авантурыстычнай у вайне супраць СССР. Фаш. Германія не мела дастатковых ні паліт., ні эканамічных, ні ваен. перадумоў для выйгрышу гэтай вайны наогул, а тым больш у кароткі тэрмін.

Гераічнае супраціўленне сав. войск збянтэжыла ўсе разлікі гітлераўскага камандавання. Ужо першыя баі на тэр. Беларусі — *Брэсцкай крэпасці абарона 1941*, баі пад Мінскам, Барысавам, Магілёвам, Гомелем, Віцебскам, Полацкам і інш.— паказалі беспадстаўнасць тэорыі «М. в.». Разгром ням.-фаш. войск пад Масквой азначаў поўны крах планаў «М. в.». Фаш.


І. В. Максімча.


М. Ф. Малаковіч.


Р. П. Маланог.


А. У. Малевіч.


М. І. Малінін.


М. С. Малінін.

Германія была пастаўлена перад неабходнасцю вядзення зацяжной вайны, чаго больш за ўсё імкнулася пазбегнуць яе паліт. і ваен. кіраўніцтва. Гераічная барацьба сав. народа і яго Узброеных Сіл прывяла да поўнага разгрому фаш. Германіі.
*У. І. Лемяшонак.*

**МАЛАНО́Г** Рыгор Піліпавіч (н. 24.1. 1911, в. Гуляйполе Крынічанскага р-на Днепрапятроўскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1943), ген.-маёр (1957). Чл. КПСС з 1932. Скончыў Ваен. акадэмію Генштаба (1954). У Чырв. Арміі з 1932. З чэрв. 1941 на Зах., Цэнтр., 1-м Бел., 1-м і 4-м Укр. франтах. Нач. аператыўнага аддзялення штаба стралк. дывізіі падпалкоўнік М. вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра каля в. Шчытцы Лоеўскага р-на: удзельнічаў у распрацоўцы плана аперацыі, у кароткі тэрмін арганізаваў пераправу, узначаліў перадавы назіральны пункт. У баі 16.10.1943 замяніў параненага камандзіра палка. Да 1972 у Сав. Арміі.

**МАЛАРЫ́ТА**, горад, цэнтр Маларыцкага р-на, на р. Маларыта. За 52 км на ПдУ ад Брэста, чыг. станцыя на лініі Брэст — Ковель, аўтадарогамі звязана з Брэстам і Кобрынам. У 1940—70 гар. пасёлак. У першыя дні вайны з 22 да 27.6.1941 у раёне М. на левым флангу 4-й арміі Зах. фронту гераічна змагаліся часці 75-й стралк. дывізіі (ген. маёр С. І. Нядзвігін) супраць 3 дывізій, у т. л. танкавай, ням. 53-га армейскага корпуса. Воіны дывізіі вялі жорсткія баі каля в. Хаціслаў, дзе 25.6.1941 батальён 34-га стралк. палка акружыў і знішчыў арт. полк гітлераўцаў; каля в. Збураж абарону трымалі 115-ы стралк. полк, каля ўрочышча Мелавая Гара — падраздзяленні 235-га гаўбічнага палка, якія знішчылі амаль батальён салдат і афіцэраў праціўніка, адбілі танк. атакі ворага; 28-ы стралк. полк, які адышоў з баямі ад г. п. Дамачава да М., суткі адбіваў атакі ворага ў акружэнні, прарваў яго і выйшаў да чыгункі Брэст — Пінск. Упартыя баі ішлі таксама каля вёсак Олтуш, Макраны, Лукава і інш. Нямецкі ген. Г. Гудэрыян у снаёй кн. «Успаміны салдата» (М., 1954) пісаў: «У 20 гадзін 15 мінут 24 чэрвеня я давedaўся аб цяжкіх баях на нашым правым флангу, дзе з 23 чэрвеня нямецкія войскі адбівалі атакі рускіх каля Маларыты» (с. 149). Патраціўшы амаль поўнасцю боепрыпасы і гаручае, часці 75-й стралк. дывізіі прарвалі акружэнне ў напрамку в. Лукава і адышлі да Пінска. Камандаванне 4-й ням. арміі зняла свае войскі ў раёне М. толькі 2 ліп. і перасунула іх на лінію Кобрын — Баранавічы. 22.6.1941 М. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія за гады акупацыі ў М. і раёне знішчылі 3349 чал. У гар. пасёлку дзейнічала падп. антыфаш. група, у М. і раёне — *Маларыцка-Дамачоўскі падпольны міжрайком КП(б)Б*, падп. райкомы КП(б)Б (2.10.1943—25.3. 1944) і ЛКСМБ (22.11.1943—20.7. 1944), партыз. брыгады імя Сталіна, «За Радзіму» імя А. К. Флегантава, імя Леніна, асобныя партыз. атрады імя Варашылава (камандзір Б. Н. Міхайлоўскі), імя П. Л. Валькова (гл. адпаведныя артыкулы). Вызвалена 20.7.1944 воінамі 76-й гвардз. стралк. дывізіі (ген.-маёр А. В. Кірсанаў) 114-га стралк. корпуса 70-й арміі 1-га Бел.фронту і партызанамі брыгады імя Леніна (камандзір В. У. Каткоў) у ходзе *Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944*. У М. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму, на якіх пастаўлены помнікі; мемар. дошка аднаму з арганізатараў падп. антыфаш. групы М. І. Бугаёвай.
*В. С. Паваліхіна.*

**МАЛАРЫ́ЦКА-ДАМАЧО́ЎСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ МІЖРАЙКО́М КП(б)Б.** Дзейнічаў з 19.6 да 20.7.1944 пад кіраўніцтвам *Брэсцкага падпольнага абкома КП(б)Б*. Узначальваў парт. работу і партыз. рух на тэр. Маларыцкага і Дамачоўскага р-наў. Накіроўваў дзейнасць Дамачоўскага і Маларыцкага райкомаў ЛКСМБ. Сакратар міжрайкома В. Я. *Шаракоў*; члены: В. М. Грабянёў, С. А. Даніленка, Р. І. Мурашоў, М. Л. Холадаў; канд. у члены: І. А. Вараб'ёў, Ф. П. Жураўлёў. Базіраваўся ў *партызанскай брыгадзе імя У. І. Леніна*.
*М. І. Эпалетаў.*

**МАЛЕ́ВІЧ** Аляксандр Іванавіч (н. 15.3. 1920, в. Ліпск Ляхавіцкага р-на), поўны кавалер ордэна Славы. Удзельнік партыз. руху, на фронце са студз. 1945. Камандзір стралк. аддзялення яфрэйтар М. вызначыўся ў баях на тэр. Польшчы і Германіі. 3.3.1945 у баі замяніў выбыўшага са строю камандзіра падраздзялення, паранены не пакінуў поля бою; 23.3.1945 у баі за г. Аліва выбіў праціўніка з траншэй; у наступным баі на чале аддзялення ўмела атакаваў ворага, знішчыў 14 гітлераўцаў, 18 узяў у палон.

**МА́ЛІН** Уладзімір Нічыпаравіч (24.7. 1906, в. Яканава Вышневалоцкага р-на Калінінскай вобл.— 30.1.1982), парт. і дзярж. дзеяч БССР. Чл. КПСС з 1926. Скончыў Ленінградскі камуніст. ун-т (1933), Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК ВКП(б) (1949). У 1937 заг. аддзела ЦК КП(б)Б. З 1938 1-ы сакратар Магілёўскага абкома КП(б)Б. З чэрв. 1939 да снеж. 1947 у ЦК КП(б)Б: сакратар па прапагандзе і агітацыі, сакратар па прамысловасці, сакратар, 3-і сакратар. У Айч. вайну чл. ваен. савета 13-й арміі, нач. Палітупраўлення і нам. нач. *Цэнтральнага штаба партызанскага руху*. З 1949 сакратар Ленінградскага гаркома ВКП(б). З 1952 інспектар, з 1954 заг. аддзела ЦК КПСС. У 1965—70 рэктар Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС. Чл. Цэнтр. рэвізійнай камісіі КПСС у 1956—66, чл. ЦК КП(б)Б у 1940—49, чл. Бюро ЦК КП(б)Б у 1940—47. Дэп. ВС СССР у 1946—50, 1958—66, ВС БССР у 1938—51. Аўтар твораў па тэорыі і гісторыі партыі.

**МАЛІ́НІН** Мікалай Іванавіч (20.3. 1893, пас. Сафіеўка Навазыбкаўскага р-на Бранскай вобл.— 26.2.1977), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Палескай вобл. Чл. КПСС з 1919. З 1921 на сав. і парт. рабоце ў Нароўлі, Рэчыцы, Гомелі. У 1941 сакратар Палескага абкома КП(б)Б, з ліст. 1941 на парт. рабоце ў Алтайскім краі. З жн. 1943 у тыле ворага, з 4.8.1943 да лют. 1944 сакратар *Палескага падпольнага абкома КП(б)Б*. Пасля вайны на парт. рабоце. Чл. ЦК КПБ у 1949—60, чл. Рэвізійнай камісіі КПБ у 1960—61. Дэп. ВС БССР у 1951—63. Яго імем названа вуліца ў Мазыры.

**МАЛІ́НІН** Міхаіл Сяргеевіч (28.12. 1899, в. Палуціна Антропаўскага р-на Кастрамской вобл.— 24.1.1960), Герой Сав. Саюза (1945), ген. арміі (1953). Чл. КПСС з 1931. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1931). Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У гады Айч. вайны з 1941 нач. штаба механіз. корпуса 16-й арміі Зах. фронту, з 1942 нач. штабоў Бранскага, Данскога, Цэнтр., Бел. і 1-га Бел. франтоў. Удзельнічаў у падрыхтоўцы і правядзенні аперацый па разгрому ням.-фаш. войск пад Масквой, Сталінградам і Курскам, а таксама ў Бел., Варшаўска-Пазнанскай, Усх.-Памеранскай і Берлінскай аперацыях. З 1945 нач. штаба і нам. галоўнакамандуючага Групай сав. войск у Германіі, нач. Гал. штаба і нам. камандуючага Сухапутнымі войскамі. З 1952 1-ы нам. нач. Генштаба Узброеных Сіл СССР. Канд. у чл. ЦК КПСС у 1952—56, чл. Цэнтр. рэвізійнай камісіі КПСС у 1956—70. Дэп. ВС СССР у 1950—58. Яго імем названы вуліцы ў Мінску і Гомелі.

**МА́ЛЫШАЎ** Пётр Фёдаравіч (28.8. 1898, в. Селязнёва Пераяслаўль-Залескага р-на Яраслаўскай вобл.— 10.12.1972), ген.-лейтэнант (1943). Чл. КПСС з 1943. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў курсы «Выстрал» (1923,1930), Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1935). У Айч. вайну на Зах., Бранскім, Ленінградскім, 1-м і 2-м Прыбалт. франтах, камандзір стралк. дывізіі, нам. камандуючага, са снеж. 1943 камандуючы 4-й ударнай арміяй. Удзельнічаў у Гарадоцкай, Віцебска-Аршанскай, Полацкай, Мінскай і інш. аперацыях. Войскі пад яго камандаваннем вызначыліся пры вызваленні Гарадка, Полацка і інш. Да 1959 на камандных пасадах у Сав. Арміі.

**МА́ЛЫШАЎ** Фёдар Аляксеевіч [н. 20.4. 1914, в. Заполле (злілася з в. Камаровічы) Петрыкаўскага р-на], удзельнік партыз. руху ў Палескай вобл., Герой Сав. Саюза (1944). Канд. тэхнічных навук (1950). Чл. КПСС з 1943. Скончыў БПІ (1941). З ліп. 1942 у партызанах: падрыўнік, камандзір дыверсійнай групы

Ф. А. Малышаў. Дз. К. Малькоў.





Манумент Перамогі ў Мінску.

78-га атрада ў *партызанскай брыгадзе 125-й Капаткевіцкай;* група падарвала 19 варожых эшалонаў, М. асабіста — 18. Са снеж. 1943 у Наркамаце мясцовай паліўнай прамысловасці БССР, з 1951 ст. навуковы супрацоўнік Ін-та торфу АН БССР.

**МАЛЬКО́Ў** Дзмітрый Кузьміч (н. 8.11. 1904, в. Лаўрухіна Савецкага р-на Кіраўскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1944), ген.-лейтэнант (1955). Чл. КПСС з 1940. У Чырв. Арміі з 1927. Скончыў ваен. пях. школу (1930), Ваен. акадэмію Генштаба (1948). З 1941 на Зах., Бранскім, Цэнтр., Бел., 3-м і 1-м Прыбалт., 1-м Бел. франтах, нач. штаба, камандзір стралк. дывізіі. Палкоўнік М. вызначыўся пры вызваленні Брагінскага р-на Палескай вобл. 27—28.9. 1943 дывізія пад яго камандаваннем першай фарсіравала Дняпро, выбіла праціўніка з траншэй, замацавалася і расшырыла плацдарм. Да 1960 у Сав. Арміі.

**МАНА́ХАЎ** Аляксандр Андрэевіч (15.9. 1909, в. Іванькава Ядрынскага р-на Чувашскай АССР — 17.9.1978), адзін з арганізатараў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Вілейскай вобл. Чл. КПСС з 1929. Скончыў Вышэйшую школу партарганізатараў пры ЦК ВКП(б) (1940), Мазырскі настаўніцкі ін-т (1949). З 1930 на гасп., камсам. і парт. рабоце. З 1939 сакратар Чашніцкага, Пастаўскага РК КП(б)Б. У Айч. вайну ў Чырв. Арміі. З мая 1943 чл., з вер. сакратар *Вілейскага падпольнага абкома КП(б)Б.* З ліп. 1944 сакратар Маладзечанскага, з 1946 Палескага абкомаў КП(б)Б. У 1953—56 1-ы сакратар Мазырскага райкома, потым гаркома КПБ. Канд. у чл. ЦК КПБ у 1954—60.

**МАНА́ХАЎ** Васіль Міхайлавіч (15.7. 1915, с. Мардоўскія Паркі Чырнонаслабодскага раёна Мардоўскай АССР — 25.11.1988), адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Брэсцкай вобл. Чл. КПСС з 1946. З чэрв. 1941 на Зах. фронце. У партызанах з ліп. 1941: камандзір групы, з жн. 1941 атрада, у снеж. 1943 — ліп. 1944 *партызанскай брыгады імя Ф. Э. Дзяржынскага.* У 1944—75 на сав. і гасп. рабоце.

**МАНЕ́ВІЧ** Леў Яфімавіч (псеўд. Эцьен, Конрад Кертнер, Старасцін; 20.8.1898, г. Чавусы — 11.5.1945), сав. ваен. разведчык, камбрыг (1938). Герой Сав. Саюза (1965). Чл. КПСС з 1918. У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Вышэйшую школу штабной службы камсаставу РСЧА (1921), Ваен. акадэмію РСЧА (1924). Служыў у разведупраўленні РСЧА. Перад 2-й сусв. вайной у некаторых краінах Еўропы быў вядомы як камерсант, уладальнік камерц. фірм. На самай справе нёў разведку. 12.12. 1936 арыштаваны, італьянскі асобы трыбунал прыгаварыў яго да 12 гадоў зняволення, якое адбываў у фаш. турмах і канцлагерах. У 1943 перададзены гітлераўцам, быў зняволены ў канцлагеры Маўтхаўзен, Мельк і Эбензе. Адзін з арганізатараў падполля, кіраўнік падп. арг-цыі ў канцлагеры Эбензе ў Аўстрыі. Вызвалены 6.5.1945 амерыканскімі войскамі безнадзейна хворы. Пахаваны ў г. Лінц (Аўстрыя). У Гомелі і Чавусах яго імем названы вуліцы, у Чавусах устаноўлена мемар. дошка.

**МАНКО́ВІЧ** Сцяпан Сцяпанавіч (13.5. 1905, в. Беразіно Докшыцкага р-на — 18.4.1978), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Мінскай вобл. Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1930. Скончыў ВПШ пры ЦК ВКП(б) (1946). З 1929 на сав. і гасп. рабоце, з 1939 сакратар Бягомльскага РК КП(б)Б. У ліп. 1941 пакінуты ў тыле ворага для арганізацыі падп. і партыз. барацьбы. З сак. 1942 у партызанах, з крас. 1942 камісар атрада, у вер. 1942 — снеж. 1943 — *партызанскай брыгады «Жалязняк»,* адначасова з жн. 1942 да снеж. 1943 сакратар Бягомльскага падп. РК КП(б)Б. Пасля вайны на сав. і парт. рабоце. Яго імем названы вуліца ў г. п. Бягомль, школа на радзіме, перад школай пастаўлены бюст.

**МАНО́ХІН** Віктар Аляксандравіч (23.1. 1911, Томск — 26.9.1972), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Вілейскай вобл. Чл. КПСС з 1941. З 1932 у органах АДПУ і НКУС СССР. У партызанах з вер. 1941: з чэрв. 1942 камісар, з лют. 1943 камандзір атрада, у вер. 1943 — ліп. 1944 — *партызанскай брыгады імя М. Ф. Гастэлы,* адначасова чл. Ашмянскага падп. РК КП(б)Б. З 1944 нам. старшыні Полацкага аблвыканкома, нам. міністра аўтамабільнага транспарту БССР, нач. Упраўлення забеспячэння і збыту пры СМ Літоўскай ССР, у 1954—67 на адм.-гасп. рабоце.

**МАНУМЕ́НТ ПЕРАМО́ГІ** ў Мінску, помнік у гонар перамогі сав. народа над фаш. Германіяй і на ўвекавечанне памяці воінаў Сав. Арміі і партызан, якія загінулі ў гады вайны. Устаноўлены ў 1954 на пл. Перамогі (арх. Г. Заборскі, У. Кароль). Мае форму абеліска (вышыня каля 40 м; абліцаваны шэрым гранітам з высечанымі на ім паясамі бел. нац. арнаменту), завершанага вывяай ордэна «Перамога» (бронза, смальта). Раскрыццю ідэі помніка служаць таксама бронзавыя гарэльефы, размешчаныя на 4 гранях пастамента: «9 мая 1945 г.» (скульпт. А. Бембель), «Савецкая Армія ў гады Вялікай Айчыннай вайны» (С. Селіханаў), «Слава загінуўшым героям» (З. Азгур), «Партызаны Беларусі» (А. Глебаў). На базе абеліска як сімвал перамогі ляжыць абвіты лаўровай галінкай бронзавы меч (С. Салтыкоў). Ступеньчаты стылабат (чорны лабрадарыт) з 4 бакоў фланкіраваны бронзавымі лаўровымі вянкамі (С. Адашкевіч). Перад манументам 3.7.1961 запалены Вечны агонь, побач устаноўлены 12 гранітных блокаў з бронзавымі надпісамі-прысвячэннямі гарадам-героям. У 1984 у сувязі з увядзеннем у дзеянне Мінскага метрапалітэна плошча перад помнікам

перапланавана, вырашана ў 2 узроўнях (арх. Б. Ларчанка, Б. Школьнікаў, К. Вязгін). Пад зямлёй манумент абкружаны кальцавой абходнай галерэяй, якая пераходзіць у круглую мемар. залу, прысвечаную памяці загінуўшых у гады вайны герояў. У цэнтры яе вянок з мастацкага шкла з падсветкай знутры (маст. В. Пазняк) — сімвал Вечнага агню памяці. На сцяне залы выявы Зоркі Героя Сав. Саюза і бронзавыя пласціны з імёнамі 566 ураджэнцаў Беларусі і інш. саюзных рэспублік, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Беларусі ад ням.-фаш. захопнікаў і ўдастоены звання Героя Сав. Саюза.

**МАНУМЕ́НТ У ГО́НАР САВЕ́ЦКАЙ МА́ЦІ-ПАТРЫЁТКІ** ў г. Жодзіна. Адкрыты ў 1975 (скульпт. А. Заспіцкі, І. Місько, М. Рыжанкоў, арх. А. Трафімчук; Дзярж. прэмія СССР 1975). Прысвечаны бел. жанчыне-маці, сав. патрыётцы Н. Ф. *Купрыянавай*, усе 5 сыноў якой аддалі жыццё за Радзіму ў барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў; малодшы — Герой Сав. Саюза П. І. *Купрыянаў*. Шасціфігурная скульптурная кампазіцыя размешчана ўздоўж шашы Мінск — Масква, складаецца з двух частак: бронзавай фігуры маці на пастаменце-ганку і адлітых з бронзы фігур 5 яе сыноў, што пайшлі на вайну. Фігуры сыноў — абагульненыя вобразы сав. воінаў. Цвёрды поступ, суровыя твары, моцна сціснутыя ў руках вінтоўкі, жорсткі рытм штыкоў траіх старэйшых, якія пайшлі на фронт першымі. У гэту маналітную групу ўключаецца чацвёрты. Апошнім ідзе малодшы сын Пётр. Прыпыніўшыся, ён аглянуўся на маці, што застыла ў журботным маўчанні. У абліччы канкрэтнай жанчыны Н. Ф. Купрыянавай сінтэзуюцца пачуцці ўсіх маці, якія блаславілі сыноў на подзвіг у імя Радзімы.

**«МАНЫ́ЛЫ»** («Manyly»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць *партызанскай брыгады «Штурмавая»* і мясцовага насельніцтва ў раёне в. Маньлы і ў Маныльскім лесе (Лагойскі р-н), а таксама ў Барысаўскім, Плешчаніцкім і Смалявіцкіх р-нах 2—14.4.1943.

Праводзілася сіламі 2-га паліцэйскага палка з прыдадзенымі яму танк. ротай, 2 мінамётнымі і 1 сапёрным узводамі. Ажыццяўлялася ў 3 этапы, кожны меў сваю кодавую назву: «М.» — 2—4 крас., «Вясна — Поўдзень» («Lenz — Süd») — 6—8 крас. і «Вясна — Поўнач» («Lenz — Nord») — 8—14 крас. Карнікам не ўдалося акружыць і знішчыць брыгаду. Нанёсшы ворагу страты (каля 20 забітых і параненых), партызаны адышлі ў паўн. напрамку.

Гітлераўцы расстралялі 723 чал., у т. л. ў в. Бабін Лес 48 чал., Замлынне 18 чал., Востраў 19 чал., Расошнае 43 чал., Туры 34 чал., Хаценава 177 чал., Ялавіца 28 чал. (Смалявіцкі р-н), Іканаўка 20 чал., Пархова 38 чал. (Лагойскі р-н) і інш., 278 мужчын і 253 жанчыны «мабілізавалі» на катаржныя работы. Захапілі больш за 340 галоў жывёлы, 850 ц збожжа, 327 ц бульбы, 11 ц ільнавалакна, разбурылі прадпрыемствы па перапрацоўцы с.-г. прадукцыі, у т. л. 11 млыноў, шмат якія вёскі спалілі. *У. С. Пасэ.*

**«МАРАБУ́»** («Marabu»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў у Жыткавіцкім, Ленінскім і Любанскім р-нах 17—25.5.1944. Мэта — акружыць і знішчыць *партызанскую брыгаду 37-ю імя А. Я. Пархоменкі*, якая актыўна дзейнічала ў тыле ворага, а таксама захоп жывёлы і прадуктаў, вываз насельніцтва на катаржныя работы ў Германію. Праводзілася ў прыфрантавой паласе 23-га армейскага корпуса 2-й ням. арміі групы армій «Цэнтр» сіламі 810-га і 10-га ахоўных батальёнаў. У захопленых партызанамі дакументах карныя батальёны мелі кодавыя назвы «Феркест — Маніх» і «Люфт — Балон». Баявыя дзеянні паміж партызанамі і карнікамі з асаблівай жорсткасцю праходзілі ў раёне г. п. Ленін, вёсках Залюцічы, Мілевічы. 21.5.1944 партызаны брыгады прарвалі блакаду і, нанёсшы праціўніку цяжкія страты, выйшлі з раёна аперацыі. Гітлераўцы разрабавалі дзесяткі вёсак, поўнасцю рэквізавалі коней і буйную рагатую жывёлу. *У. С. Пасэ.*



Манумент у гонар савецкай маці-патрыёткі ў г. Жодзіна.

**МАРГЕ́ЛАЎ** Васіль Піліпавіч (н. 27.12. 1908, Днепрапятроўск), Герой Сав. Саюза (1944), ген. арміі (1967). Канд. ваен. навук (1968). Чл. КПСС з 1929. Беларус. У Чырв. Арміі з 1928. Скончыў Ваен. акадэмію Генштаба (1948). Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну з 1941 на Ленінградскім, Паўн.-Зах., Сталінградскім, Паўд., 2-м і 3-м Укр. франтах: камандзір стралк. палка, нач. штаба, камандзір стралк. дывізіі. Удзельнік баёў пад Ленінградам, Сталінградам, Растовам-на-Доне, на рэках Дняпро, Днестр, вызвалення Румыніі, Балгарыі, Югаславіі, Чэхаславакіі, Венгрыі, Аўстрыі. Вызначыўся ўмелым кіраўніцтвам часцямі дывізіі пры фарсіраванні Дняпра і вызваленні Херсона. З 1946 на камандных пасадах у Сав. Арміі. Дзярж. прэмія СССР 1975.



А. А. Манахаў. Л. Я. Маневіч.

**МА́Р'ІНА ГО́РКА,** горад, цэнтр Пухавіцкага р-на на р. Цітаўка. За 63 км на ПдУ ад Мінска, чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск — Асіповічы. Аўтадарогамі звязана з Мінскам, Асіповічамі, Чэрвенем, Уздой. У 1938—55 гар. пасёлак. 6,5 тыс. жыхароў у 1939. 28.6.1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія за гады акупацыі знішчылі ў М. Г. 1200 чал., а ўсяго ў М. Г. і раёне 3145 чал. У М. Г. дзейнічала *Мар'інагорскае камсамольска-маладзёжнае падполле*, а таксама на тэр. раёна — Пухавіцкія падп. райкомы КП(б)Б (22.8.1942— 2.7.1944) і ЛКСМБ (1.10.1942—2.7. 1944), партыз. брыгады 1-я і 2-я Мінская, 3-я Мінская імя Будзённага, «Беларусь», «Буравеснік», імя Калініна, імя Кірава, «Чырвоны сцяг», 1-я Асіповіцкая, 12-я кав. імя Сталіна,

«Полымя», імя Панамарэнкі, імя Чапаева, «За Радзіму» імя А. К. Флегантава, 208-ы полк імя Сталіна, партыз. атрады 210-ы імя Сталіна, «Мсцівец», «Мясцовыя», імя Калініна, імя Сталіна (гл. адпаведныя артыкулы); выдавалася падп. газ. *«Партизан Белоруссии»*. Вызвалена 3.7. 1944 воінамі 1-га гвардз. танк. корпуса (ген.-маёр М. Ф. *Паноў*) 65-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе *Мінскай аперацыі 1944* ва ўзаемадзеянні з партыз. брыгадай «Полымя» (Я. Ф. *Філіпскіх*). У М. Г. брацкая магіла сав. воінаў, магіла сакратара Мінскага падп. райкома ЛКСМБ Л. Г. *Гайдучонак,* Героя Сав. Саюза В. Ф. Токарава, лётчыка М. Ф. Ермакова, якія загінуў у паветр. баі ў 1944, на іх пастаўлены помнікі; помнікі ў гонар воінаў-вызваліцеляў, сав. воінам, партызанам і падпольшчыкам, што загінулі ў барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі. *Н. У. Капранава.*

**МАР'ІНАГО́РСКАЕ КАМСАМО́ЛЬСКА-МАЛАДЗЕЖНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з ліп. 1941 да студз. 1944 у г. п. Мар'іна Горка. Аб'ядноўвала 29 чал. Кіраўнікі В. І. Варывончык, з снеж. 1942 Г. А. Мазанік. З жн. 1942 узначальваў Пухавіцкі падп. РК КП(б)Б. Падтрымлівала сувязь з *Мінскім партыйным падполлем,* 2-й Мінскай партыз. брыгадай, атрадамі «Буравеснік», «Сокал», імя Сталіна.

Падпольшчыкі вялі паліт. работу сярод насельніцтва, распаўсюджвалі лістоўкі і зводкі Саўінфармбюро, перадалі партызанам здабытыя ў акупантаў 4 кулямёты, шмат зброі і боепрыпасаў, перасоўную электрастанцыю, 2 пішучыя машынкі, радыёпрыёмнікі, карту, медыкаменты, паведамлялі графік руху цягнікоў праз ст. Пухавічы, звесткі аб дыслакацыі варожых войск, узарвалі мост, майстэрню па рамонту ваен. тэхнікі, замініравалі электрастанцыю.

У барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі загінулі: А. І. Андросік, Я. Р. Андрук, Л. І. Бабук, В. А. і В. А. Бамбуравы, У. І. Бука, І. З. Варывончык, Г. А. Мазанік, У. А. Сарачынскі. *Ю. А. Капіца.*

**МА́РКАВА,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1 км на Пд ад в. Беляны Сенькаўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 54 чал. У чэрв. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 31 жыхара, вёску (9 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1982 на месцы вёскі пастаўлены мемар. знак. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**МА́РКАЎ** Пётр Аляксеевіч (28.6.1902, в. Хатоўня Рагачоўскага р-на — 3.6. 1967), ген.-палк. танк. войск (1965). Чл. КПСС у 1926—33 і з 1944. У Чырв. Арміі з 1923. Скончыў ваен. акадэміі механізацыі і матарызацыі РСЧА (1935), Генштаба (1958). З мая 1942 на Зах., Паўд.-Зах. і 1-м Укр. франтах: нач. аператыўнага аддзела танк. корпуса, нач. штаба механіз. корпуса. Удзельнік вызвалення Калінінскай, Смаленскай, Калужскай, Днепрапятроўскай абл., Данбаса. У 1944—58 нам. нач. штаба Упраўлення камандавання бранятанк. і механіз. войскамі Сав. Арміі, ст. выкладчык ваен. акадэміі. З 1958 нам. нач., з 1964 нач. Ваен. акадэміі бранятанк. войск.

**МА́РКАЎ** Фёдар, Рыгоравіч (24.12. 1913, в. Качанішкіс Швянчонскага р-на Літоўскай ССР — 14.1.1958), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху ў Вілейскай вобл. Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1934. Скончыў ВПШ пры ЦК ВКП(б) (1948). Удзельнік рэв. руху ў Зах. Беларусі; у 1936—39 быў зняволены ў Бяроза-Картузскі канцлагер, віленскую турму. У 1939—41 старшыня Свянцянскага гарсавета, нам. старшыні Віленскага аблвыканкома. У партызанах з вер. 1941: камандзір спецгрупы, з мая 1942 атрада імя Суворава, з ліст. 1942 *партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава,* адначасова з крас. 1943 нач. ваеннааператыўнага аддзела Вілейскага падп. абкома КП(б)Б. З 1944 нам. старшыні Вілейскага, Маладзечанскага аблвыканкомаў. Дэп. ВС БССР з 1940. Яго імя прысвоена саўгасу ў Шаркоўшчынскім р-не, школе ў в. Апідамы Пастаўскага р-на; імем М. названы вуліца і парк у Маладзечне, дзе яму пастаўлены помнік, вуліцы ў г. Вілейка, Паставы, у г. п. Лынтупы, Мядзел.

**МАРМУЛЕ́Ў** Міхаіл Глебавіч (8.11. 1917, в. Арцёмаўка Ярцаўскага р-на Смаленскай вобл.— 7.4.1985), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1943. Скончыў арт. вучылішча (1941). Адзін з арганізатараў партыз. атрада «Буравеснік». Са снеж. 1943 камандзір *партызанскай брыгады «Буравеснік»,* партызаны якой правялі больш за 150 баявых аперацый, знішчылі шмат ням. тэхнікі, каля 3 тыс. салдат і афіцэраў ворага. Пасля вайны на сав. рабоце.


В. П. Маргелаў. Ф. Р. Маркаў. М. Г. Мармулёў. А. К. Марозаў. Дз. К. Марозаў. М. У. Марозаў.

**МАРО́ЗАЎ** Аляксандр Кліменцьевіч (23.1.1906, в. Якубова Полацкага р-на — 9.9.1984), поўны кавалер ордэна Славы. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. На фронце з чэрв. 1941, потым у партызанах, з 1944 на фронце — разведчык, агнямётчык. У партызанах пусціў пад адхон 3 варожыя эшалоны. Вызначыўся ў баях на тэр. Прыбалтыкі і Усх. Прусіі: 10.10.1944 пры захопе варожай аўтакалоны цяжка паранены знішчыў 2 кулямётчыкаў праціўніка, якія перашкаджалі наступленню сав. войск. Пахаваны ў в. Альгова Віцебскага р-на.

**МАРО́ЗАЎ** Анатоль Рыгоравіч (н. 3.7.1903, с. Мясаедава Шчокінскага р-на Тульскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай і Баранавіцкай абл. Чл. КПСС з 1924. З 1920 у органах ВЧК, АДПУ, НКУС. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. З 1941 камандзір атрада, з 1942 нач. штаба мотастралк. палка, з лют. 1943 — брыгады асобага прызначэння войск НКУС. У ліп. 1943 — ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады «Няўлоўныя»,* адначасова чл. Юрацішкаўскага падп. РК КП(б)Б. З 1944 у МУС СССР, з 1959 на пед. рабоце ў Маскве.

**МАРО́ЗАЎ** Дзмітрый Кузьміч (31.10. 1912, в. Казіміраўка Лоеўскага р-на — 5.1.1981), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1940. Скончыў Гомельскі фінансава-эканамічны тэхнікум (1932), Ваен. акадэмію імя

Фрунзе (1949). У Чырв. Арміі з 1934. Удзельнік баёў супраць японскіх імперыялістаў на Далёкім Усходзе ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. З ліп. 1941 на Паўн.-Зах., Зах. і 3-м Бел. франтах. Вызначыўся ў *Беларускай аперацыі 1944*. У час прарыву абароны праціўніка стралк. полк пад камандаваннем палкоўніка М. на ПдУ ад Віцебска авалодаў в. Буракі, гэтым забяспечыў наступленне сав. войск. Фарсіраваў Лучосу, Бярэзіну, Вілію, Нёман. Удзельнік вызвалення Вільнюса, Каўнаса, штурму Кёнігсберга, Пілаў, разгрому Квантунскай арміі Японіі ў складзе 1-га Далёкаўсх. фронту. Да 1956 у Сав. Арміі, палкоўнік. Яго імем названа вул. ў г. п. Мядзел.

**МАРО́ЗАЎ** Міхаіл Ільіч (1.1.1922, г. Барысаў — 24.8.1944), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1942. Скончыў Барысаўскае педвучылішча (1939). З 1941 на Зах., Варонежскім, Цэнтр. і 1-м Укр. франтах. Вызначыўся ў жн.— вер. 1943 пры вызваленні Украіны. Арт. батарэя на чале з ст. лейтэнантам М. з баямі прайшла 450 км і знішчыла 460 гітлераўцаў, 3 гарматы, мінамёт, 2 ручныя кулямёты, 7 аўтамашын з грузам, адбіла 5 контратак. У баі за плацдарм на р. Сейм паранены М. працягваў кіраваць агнём батарэі, забяспечыў прарыў абароны праціўніка і вызваленне шэрагу населеных пунктаў. Батарэя ў ліку першых фарсіравала Дзясну, Дняпро, Прыпяць і агнём падтрымлівала пяхоту. Памёр у шпіталі. Пахаваны ў г. Луцк. Яго імем названа вуліца ў Барысаве, на будынку педвучылішча мемар. дошка.

**МАРО́ЗАЎКА,** вёска на тэр. Сенненскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на Пн ад в. Ліпна Ходцаўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 42 чал. 22.8.1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 28 жыхароў, у т. л. 17 дзяцей, вёску (11 двароў) спалілі, маёмасць разрабавалі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1975 на магіле ахвяр фашызму пастаўлена стэла. Вёска ўвекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь*.

**МАРТЫНЕ́НКІ,** вёска (хутар) на тэр. Полацкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася ў Юравіцкім сельсавеце. Перад вайной у ёй жыло 16 чал. Летам 1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 10 жыхароў, вёску (2 двары) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь*.

**МАРТЫСЮ́К** Пётр Рыгоравіч (н. 15.9. 1915, в. Арэхаўка Чэрвеньскага р-на), адзін з кіраўнікоў парт. подполля і партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1940. Скончыў ВПШ пры ЦК КПСС (1959). У 1934—39 старшыня калгаса. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. З чэрв. 1941 у партызанах: радавы, палітрук роты, з кастр. 1942 камісар атрада, у жн. 1943 — ліп. 1944 — *партызанскай брыгады 200-й імя К.К. Ракасоўскага,* адначасова чл., у крас. 1943 — ліп. 1944 сакратар Дзяржынскага падп. РК КП(б)Б. З 1944 на парт., сав. і адм.-гасп. рабоце. Дэп. ВС БССР у 1959—63 і 1967—71.

**МАРУСІЧЭ́НКА** Канстанцін Іванавіч (9.5.1917, хутар Кірсаўка Міргарадскага р-на Палтаўскай вобл.— 1.8. 1989), Герой Сав. Саюза (1944), ген.-маёр авіяцыі (1959). Чл. КПСС з 1941. У Чырв. Арміі з 1936. Скончыў Варашылаўградскую школу ваен. пілотаў (1937), Ваен.-паветр. акадэмію (1950), Ваен. акадэмію Генштаба (1961). З чэрв. 1941 на Паўд. фронце, з сак. 1942 у часцях авіяцыі далёкага дзеяння. Зрабіў 198 баявых вылетаў. Удзельнік Сталінградскай бітвы, абароны Ленінграда, вызвалення Гомеля, Бабруйска, Мінска, Берлінскай аперацыі. Да 1963 на камандных пасадах у Сав. Арміі. Дэп. ВС БССР у 1959—63.

**МАРЦЭ́ХАЎ** Васіль Фёдаравіч (1.4. 1917, штат Агаё ЗША — 12.7.1943), Герой Сав. Саюза (1943). Беларус, бацькі — ураджэнцы в. Бярозкі Гомельскага р-на. Чл. КПСС з 1940. У Чырв Арміі з 1938. З 1941 на Бранскім, Паўд.-Зах., Паўд., Сталінградскім, Данскім і Варонежскім франтах. Вызначыўся ў баях пад Сталінградам і Курскам. 19.11.1942 танк. рота на чале з ст. лейтэнантам М. прарвала абарону ворага, што садзейнічала прарыву фронту, і 26.1. 1943 злучылася з танкістамі 62-й арміі ў Сталінградзе. На рахунку М. 14 знішчаных танкаў, 22 гарматы, 9 мінамётаў, 16 аўтамашын, 7 кулямётаў і больш за 800 гітлераўцаў. Загінуў у баі каля Курска.

**МАРЦІНКЕ́ВІЧ** Уладзімір Мікалаевіч (22.3.1896, г. п. Крупкі — 30.7.1944), ген.-маёр (1941), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1939. У арміі з 1915. З лют. 1918 камандзір 1-га Маладзечанскага партыз. атрада, потым у Чырв. Арміі. Скончыў Вышэйшую ваен. школу старшага камсаставу (1923), курсы ўдасканалення камсаставу пры Ваенна-гасп. акадэміі (1937). Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну на Паўд., Закаўказскім, Волхаўскім і 1-м Бел. франтах, в. а. камандуючага 24-й і 9-й арміямі, камандзір стралк. дывізіі. Вызначыўся ўмелым кіраўніцтвам баявымі дзеяннямі дывізіі пры фарсіраванні ў ліп. 1944 Зах. Буга, Віслы, пры захопе і ўтрыманні плацдарма на левым беразе Віслы. Загінуў у баі. Пахаваны ў г. Луцк. У Крупках яго імем названы вуліца, школа, пастаўлены бюст.

**МА́РЧАНКА** Аркадзь Якаўлевіч (11.3. 1916, в. Кавалькі, Полацкі р-н—23.2. 1989), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1939. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1949). Удзельнік баёў на р. Халхін-Гол (1939). сав.-фінл. вайны 1939—40. З чэрв. 1941 на Зах. фронце. З ліп. 1941 у тыле ворага, кіраўнік групы *Полацкага партыйна-камсамольскага падполля,* з мая 1942 камандзір партыз. атрада, у чэрв. 1942 — ліст. 1943 — *партызанскай брыгады 3-й Беларускай,* адначасова з жн. 1942 камандуючы аб'яднаным штабам партыз. войск Полацкай зоны, чл. Полацкага падп. РК КП(б)Б. З 1944 на парт., сав., адм. і гасп. рабоце.


В. Ф. Марцехаў. У. М. Марцінкевіч.

**МА́РЧАНКА** Уладзімір Мікітавіч (7.8. 1915, в. Губарэвічы Хойніцкага р-на — май 1945), поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПСС з 1943. На фронце з 1941. Камандзір гарматы старшына М. вызначыўся ў баях у 1944 і 1945. У наступальным баі за расшырэнне плацдарма на левым беразе р. Одэр каля Кюстрына 16.4.1945 прамой наводкай з адкрытай пазіцыі знішчыў 6 варожых агнявых кропак і каля 30 гітлераўцаў, падпаліў 2 бронетранспарцёры з жывой сілай праціўніка. Памёр ад ран.

**МА́РЧАНКА** Яўхім Цімафеевіч (1.1. 1913, в. Мікалаеўка Магілёўскага р-на — 24.1.1980), ген.-лейт. (1959). Чл. КПСС з 1932. Скончыў Ваен. акадэмію Генштаба (1948). Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну на Зах., Паўд.-Зах., 3-м Укр. і 1-м Бел. франтах: камандзір батальёна, нач. аператыўнага аддзялення і нач. штаба дывізіі, камандзір дывізіі. Удзельнік абарончых баёў на Беларусі, Смаленшчыне, пад Масквой, вызвалення Данбаса, Адэсы, Варшаўска-Пазнанскай і Берлінскай аперацыі. З 1945 на адказных пасадах у Сав. Арміі.

**МАРЫНЕ́НКА** Тацццяна Савельеўна (25. 1.1920, в. Сухі Бор Полацкага р-на — 2.8.1942), удзельніца партыз. руху на тэр. Полацкага р-на. Герой Сав. Саюза (1965). Чл. ВЛКСМ. Скончыла Полацкае педвучылішча (1939),

працавала настаўніцай сярэдняй школы. У Айч. вайну сувязная і разведчыца *партызанскай брыгады «Няўлоўныя»*. Распаўсюджвала зводкі Саўінфармбюро, агітацыйную л-ру, здабывала планы карных экспедыцый, звесткі пра дыслакацыю войск праціўніка. Арыштавана і пасля катаванняў расстраляна з 14-гадовым братам Лаўрэнам. Пахавана ў в. Жарцы Полацкага р-на. Яе імем названы вуліца і мікрараён у Полацку, пастаўлены помнікі перад будынкам педвучылішча і сярэдняй школы № 8 у Полацку, на будынку педвучылішча мемар. дошка; імя М. прысвоена Зялёнкаўскай сярэдняй школе, дзе яна працавала перад вайной.

У. М. Марчанка. Т. С. Марыненка. У. Р. Масальскі. Я. Р. Маскаленка. Г. І. Маслоўская. Г. Г. Маслякоў.



**МАРЫНЯ́КА** Іван Паўлавіч (24.7. 1912, с. Блутча Казялецкага р-на Чарнігаўскай вобл.— 18.9.1958), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Брэсцкай вобл. Чл. КПСС з 1942. З 1937 на гасп. рабоце. З 1939 у Чырв. Арміі. У партызанах з кастр. 1942: радавы, камандзір узвода, роты, нам. нач. штаба Брэсцкага партыз. злучэння, у ліст. 1943 — ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады імя Я. М. Свярдлова*. З 1944 працаваў у сістэме грамадз. абароны.

**МАСАЛО́Ў** Пётр Іванавіч (н. 19.6. 1916, г. Прыморска-Ахтарск Краснадарскага краю), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Брэсцкай вобл. Чл. КПСС з 1946. У 1940—41 у Чырв. Арміі. У партызанах з лета 1941: камандзір групы, з вер. 1942 камісар атрада, у вер. 1943 — ліп. 1944 — *партызанскай брыгады «Савецкая Беларусь»*. З 1944 на сав., адм.-гасп. і гасп. рабоце.

**МАСА́ЛЬСКІ** Уладзімір Рыгоравіч (22. 1.1920, г. Рэчыца — 21.7.1965), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1953. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. Скончыў курсы мал. лейтэнантаў (1942), Ленінградскае арт. вучылішча. З 1941 на Ленінградскім фронце. Вызначыўся ў баях на ўчастку Пулкава — Краснае Сяло. У студз. 1944 рота аўтаматчыкаў капітана М. зайшла ў тыл ворагу каля вышыні Вароніна Гара, з якой гітлераўцы карэкціравалі агонь дальнабойных гармат, што абстрэльвалі Ленінград, і адначасовым ударам з флангаў захапіла вёску на подступах да вышыні, мужна змагалася пры авалоданні ёю. 4 разы паранены М. не пакінуў поля бою. Да 1954 у Сав. Арміі, падпалкоўнік. Яго імем названа вуліца ў г. Рэчыца, на будынку школы, дзе ён вучыўся (цяпер Дом піянераў), мемар. дошка.

**МАСКАЛЕ́НКА** Якаў Раманавіч (2.3. 1922, в. Вял. Аўцюкі Калінкавіцкага р-на — 18.3.1966), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1950. На фронце з 1941. У 1942—43 у 2-й Калінкавіцкай партыз. брыгадзе імя М. В. Фрунзе. З 7.6.1944 зноў на фронце. Вызначыўся 12—14.7.1944 у дэсантнай аперацыі пры вызваленні Пінска. З групай байцоў высадзіўся на бераг Піны ў цэнтры горада, заняў абарону і 2 сутак адбіваў контратакі праціўніка.

**МАСКО́ЎСКАЯ БІ́ТВА 1941—42**, адна з вырашальных аперацый Вял. Айч. вайны. Складалася з 2 перыядаў: абарончыя баі (30.9—4.12.1941) і контрнаступленне (5.12.1941—20.4. 1942). Ням.-фаш. камандаванне разлічвала захапіць Маскву і гэтым дасягнуць рашаючага поспеху ў вайне. Яно падрыхтавала буйную наступальную аперацыю пад кодавай назвай «Тайфун», плануючы 3 моцнымі ўдарамі танк. груповак з раёнаў Духаўшчыны, Рослаўля і Шосткі расчляніць абарону сав. войск, акружыць і знішчыць войскі Зах., Рэзервовага і Бранскага франтоў у раёнах Вязьмы і Бранска, пасля чаго моцнымі рухомымі групамі з Пн і Пд адначасова з франтальным наступленнем пях. злучэнняў авалодаць Масквой. Асн. сілы (74,5 дывізіі, у т. л. 14 танк., 8 матарызаваных) праціўнік сканцэнтраваў на У ад Смаленска ў палосе групы армій «Цэнтр». Усяго для ажыццяўлення аперацыі «Тайфун» у складзе групы армій «Цэнтр» было сканцэнтравана 1,8 млн. чал., больш за 14 тыс. гармат і мінамётаў, 1,7 тыс. танкаў, 1390 самалётаў. У складзе 3 сав. франтоў налічвалася каля 1250 тыс. чал., 7,6 тыс. гармат і мінамётаў, 990 танкаў, 677 самалётаў. Сав. войскі ў 1,5—2 разы ўступалі праціўніку ў асабовым складзе і ваен. тэхніцы.

Бітва пад Масквой праходзіла ў палосе каля 1 тыс. км., працягвалася больш за 6 месяцаў, вылучалася выключнай напружанасцю і жорсткасцю. Ням.-фаш. войскі перайшлі ў наступленне 30 вер. на бранскім і 2 кастр. на вяземскім напрамках. Праціўніку ўдалося прарваць абарону вял. танк. сіламі выйсці ў тыл сав. войск і акружыць у раёнах Бранска і Вязьмы частку сіл Зах., Бранскага і Рэзервовага франтоў. Вораг захапіў Калінін, Малаяраславец, Мажайск, Валакаламск. Да Масквы заставалася 80—100 км. У кастр. гітлераўцы зрабілі 31 налёт на Маскву, у якіх удзельнічалі 2 тыс. самалётаў (збіта 278, да горада прарваліся толькі 72). Камуніст. партыя і Сав. ўрад прынялі экстранныя меры па стварэнню новага фронту абароны, арганізацыі абароны Масквы. Рашэннем Дзярж. к-та абароны гал. рубяжом супраціўлення была вызначана Мажайская лінія. Сюды выстаўляліся рэзервы Стаўкі ВГК і злучэнні з інш. франтоў. Яшчэ адна лінія абароны ствaралася непасрэдна на подступах да сталіцы. У горадзе і прылеглых да яго раёнах уводзіўся стан аблогі. На абарону Масквы паднялася ўся краіна. Сотні ўзброеных атрадаў нар. апалчэння, баявых дружын, груп знішчальнікаў танкаў разам з вайсковымі часцямі сталі на абарону горада. Каб палепшыць кіраванне войскамі, Стаўка 10 кастр. аб'яднала Зах. і Рэзервовы франты ў Зах. фронт пад камандаваннем ген. арміі Г. К. *Жукава*, 17 кастр. стварыла Калінінскі фронт (камандуючы ген.-палк. І. С. *Конеў*), 10 ліст. расфарміравала Бранскі фронт. Пасля двухтыднёвай паўзы 15—16 ліст. група армій «Цэнтр» аднавіла наступленне на Маскву, каб авалодаць ёю да зімы. Вораг нанёс моцныя ўдары, каб абысці сав. сталіцу з Пн і Пд. У Падмаскоўі зноў разгарнуліся кровапралітныя бітвы. Цаной велізарных страт гітлераўцы адцяснілі абарону і дайшлі да канала Масква — Волга ў раёне

Яхромы, авалодалі Крукавам і Краснай Палянай, на некаторых участках наблізіліся да Масквы на 25—30 км. 27 і 29 ліст. сав. войскі нанеслі моцныя контрудары па паўн. і паўд. групоўках праціўніка. У ходзе двухмесячнай бітвы на подступах да Масквы ням.-фаш. групоўка была абяссілена і абяскроўлена. 1 снеж. гітлераўцы зрабілі апошнюю спробу прарвацца да Масквы з раёна Нара-Фамінска, але і гэты ўдар быў адбіты. Абарончая бітва за Маскву была выйграна. Толькі з 16 ліст. да 5 снеж. вораг страціў пад Масквой больш за 155 тыс. чал. забітымі і паранеными, каля 800 танкаў, 300 гармат і да 1500 самалётаў, яго маральны дух быў надламаны. 5—6 снеж. без аператыўнай паўзы перайшлі ў наступленне войскі Калінінскага, Зах. і правага крыла Паўд.-Зах. франтоў. Паспяховае наступленне развівалі войскі зноў створанага 24 снеж. Бранскага фронту. У пач. студз. 1942 контрнаступленне на зах. стратэгічным напрамку было завершана. Сав. войскі разграмілі ўдарныя групоўкі праціўніка і адкінулі іх ад Масквы на 100—250 км, вызвалілі больш за 11 тыс. населеных пунктаў. Сав. войскі пераходзілі ў контрнаступленне ў цяжкіх умовах, калі колькасная перавага ў жывой сіле, артылерыі і танках была яшчэ на баку праціўніка. Да пач. снеж. група армій «Цэнтр» мела ў сваім складзе 1708 тыс. чал., каля 13 500 гармат і мінамётаў, 1170 танкаў, 615 самалётаў. Сав. войскі налічвалі каля 1100 тыс. чал., 7652 гарматы і мінамёты, 744 танкі, 1 тыс. самалётаў. Контрнаступленне пад Масквой і на інш. участках фронту ў пач. студз. 1942 перарасло ў агульнае наступленне сав. войск на асн. стратэгічных напрамках. Група армій «Цэнтр», нацэленая на Маскву. была адкінута на 150—400 км, вызвалены Маскоўская, Тульская вобл., многія раёны Калінінскай, Смаленскай, Разанскай і Арлоўскай абл. У М. б. вызначыліся воіны 316-й стралк. дывізіі ген.-маёра І. В. Панфілава, 2-га гвардз. кав. корпуса пад камандаваннем беларуса ген.-маёра Л. М. *Даватара*, 1-й гвардз. Маскоўскай мотастралк. дывізіі пад камандаваннем ураджэнца Гомеля ген.-маёра А. І. Лізюкова (гл. *Лізюковы*). Мужна змагаліся воіны-беларусы С. П. *Алейнікаў*, І. П. *Камера*, І. І. *Казлоўскі*, Г. А. *Палаўчэня*, П. Ф. *Сычэнка*, А. Дз. *Церашкоў* і інш. Арміі дапамагалі партызаны Калінінскай, Смаленскай, Арлоўскай, Тульская вобл., многія раёны Калінін Беларусі. У час абароны Масквы толькі падпольшчыкі Оршы за 3 месяцы зрабілі 98 крушэнняў на чыгунцы, вывелі са строю 200 паравозаў. У ходзе М. б. гітлераўцы страцілі больш за 500 тыс. чал., 1,3 тыс. танкаў, 2,5 тыс. гармат, больш за 15 тыс. аўтамашын і інш. тэхнікі.

М. б. мела вял. паліт. і стратэгічнае значэнне, была першай буйной наступальнай аперацыяй Чырв. Арміі, паваротным этапам 2-й сусв. вайны. Канчаткова быў сарваны план «*маланкавай вайны*», развянчаны перад усім светам міф аб непераможнасці вермахта. Гэта гіст. перамога ўзняла міжнар. аўтарытэт СССР, садзейнічала ўзмацненню нац.-вызв. руху ў акупіраваных краінах, паскорыла афармленне, а потым і ўмацаванне антыгітлераўскай кааліцыі. Каля 40 злучэнняў і часцей атрымалі найменні гвардзейскіх, 110 воінам прысвоена званне Героя Сав. Саюза, 36 тыс. узнаг. ордэнамі і медалямі. У 1944 устаноўлены медаль «За абарону Масквы», якім узнагароджана больш за 1 млн. чал. 8.5.1965 Маскве прысвоена ганаровае званне «Горад-герой».

*У. І. Лемяшонак.*

**МАСЛО́ЎСКАЯ** Ганна Іванаўна (6.1.1920, в. Курсевічы Пастаўскага р-на — 11.11.1980), удзельніца партыз. руху ў Вілейскай вобл. Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1949. Да вайны ст. піянерважатая ў Пастаўскім р-не. У чэрв. 1941 добраахвотна ўступіла ў Чырв. Армію. Трапіўшы ў акружэнне, наладзіла сувязь з партызанамі. У 1942 па заданню падп. парт. арг-цыі з мэтай разведкі ўладкавалася ў Паставах у краўецкую майстэрню, якая абслугоўвала эсэсаўцаў. З яе дапамогай падпольшчыкі знішчылі гітлераўскага генерала. З мая 1943 нам. камісара па камсам. рабоце партыз. атрада імя Пархоменкі *партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава*. З 24.12.1942 да 4.7.1944 чл. Пастаўскага падп. РК ЛКСМБ. Удзельнічала ў разгроме фаш. гарнізонаў у Залессі, Лынтупах, у падрыве 3 эшалонаў ворага, 270 рэек. Пасля вайны стала прыёмнай маці 15 сірот, бацькі якіх загінулі ад рук фашыстаў.

**МАСЛЯКО́Ў** Георгій Гаўрылавіч (1.4.1925, г. Горкі РСФСР — 29.9.1943), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1943. Беларус. Скончыў Вінніцкае ваен. пях. вучылішча (1943). З 1943 на Цэнтр. фронце. Кулямётчык рады М. вызначыўся ў Брагінскім р-не. 28.9.1943 у складзе дэсантнай групы ў ліку першых пераправіўся цераз Дняпро. Група атакавала ворага, знішчыла кулямёт, процітанк. гармату, замацавалася на плацдарме, адбіла контратаку і прыкрывала агнём пераправу палка. М. знішчыў каля 25 гітлераўцаў. Загінуў у баі. Пахаваны ў с. Мысы Рэпкінскага р-на Чарнігаўскай вобл. У Горкім пастаўлены бюст М., яго імем названы вуліца, сухагрузны цеплаход, устаноўлены мемар. дошкі на доме, дзе ён жыў, і на будынку былой школы, дзе вучыўся.

**МАСТЫ́**, горад, цэнтр Мастоўскага р-на, на р. Нёман пры ўпадзенні ў яе р. Зальвянкі. За 60 км на ПдУ ад Гродна, вузел чыгунак і аўтадарог на Гродна, Ваўкавыск, Ліду. 4,7 тыс. жыхароў у 1939. У 1940—55 гар. пасёлак. 22.6.1941 у паветр. баі лётчык-знішчальнік А. С. *Данілаў* у раёне М. здзейсніў таран варожага самалёта. У першыя дні вайны недалёка ад М. жорсткія баі з ворагам вёў атрад (каля 700 чал.) 184-га стралк. палка 56-й стралк. дывізіі 3-й арміі Зах. фронту пад камандаваннем падпалк. Чугунава (загінуў) і батальённага камісара Ільюхіна. Байцы атрада далучыліся потым да аднаго з партыз. атрадаў. 25.6.1941 М. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў М. і раёне 2681 чал. У М. і раёне дзейнічалі *Шчучынскі падпольны міжрайпартцэнтр*, Зэльвенскі падп. райком КП(б)Б (10.12. 1943—13.7.1944), Мастоўскі падп. райком ЛКСМБ (17.12. 1943 — 13.7.1944), партыз. брыгада Ленінская, асобныя партыз. атрады «Наватары», імя Калініна (гл. адпаведныя артыкулы). Вызвалены 13.7. 1944 воінамі 348-й стралк. дывізіі (ген.-маёр М. А. Нікіцін) 35-га стралк. корпуса 3-й арміі 2-га Бел фронту ў ходзе *Беластоцкай аперацыі 1944*. У М. брацкія магілы сав. воінаў і партызан, на іх пастаўлены помнікі, помнік загінуўшым землякам.

*У. М. Якубоўскі.*

**МАСЮКО́ЎШЧЫНСКІ ЛА́ГЕР СМЕ́РЦІ** (ш т а л а г № 352, Л я с н ы л а г е р). Створаны ням.-фаш. акупантамі ў ліп. 1941 каля в. Масюкоўшчына Мінскага р-на для масавай загубы сав. грамадзян (ваеннапалонных і цывільных). Меў 22 філіялы і аддзяленні ў Мінску і больш за 90 на чыг. станцыях Беларусі.

Лагер быў агароджаны калючым дротам. Вязні размяшчаліся ў летніх бараках і паўразбураных памяшканнях; за суткі атрымлівалі на чалавека 100—200 г эрзацхлеба і 1/3 л баланды. Была ўстаноўлена асабліва суровая сістэма катаванняў і масавых забойстваў. Пасля выхаду Італіі з гітлераўскай кааліцыі сюды прывозілі італьянскіх салдат. За час існавання лагера да 3.7.1944 тут загублена больш як 80 тыс. сав. грамадзян. На месцы масавых пахаванняў вязняў помнік-манумент і ратонда, у якой зберагаецца кніга з прозвішчамі часткі загубленых (больш за 9 тыс. чал.).

*В. П. Раманоўскі, А. А. Фактаровіч.*

**МАСЯВІ́ЧЫ**, вёска на тэр. Капыльскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася ў Бабаўнянскім сельсавеце. Перад вайной у ёй жыло 138 чал. 2.2.1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 130 жыхароў, у т. л. старых і дзяцей, вёску (32 двары) спалілі, маёмасць разрабавалі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1949 на месцы вёскі пастаўлены абеліск, у 1974 на магіле ахвяр фашызму — скульпт. помнік. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь*.

**МАТРУ́НЧЫК** Іосіф Васілевіч (2.2.1903, в. Кайкава Мінскага р-на —9.6.1945), Герой Сав. Саюза (1940). Чл. КПСС з 1928. У Чырв. Арміі з 1925.

Камандзір эскадрыллі бамбардзіроўшчыкаў капітан М. вызначыўся ў сав.-фінл. вайне 1939—40. Зрабіў 58 баявых вылетаў. У Айч. вайну з жн. 1941 на Зах., Волхаўскім, Ленінградскім, 2-м Укр., 1-м Прыбалт. і 1-м Бел. франтах, камандзір авіяпалка, нам. камандзіра авіядывізіі. Загінуў у авіяц. катастрофе.

чылішча (1939). З 1936 у Чырв. Арміі. У партызанах з ліп. 1941: камандзір групы, з кастр. 1942 атрада, у чэрв. 1943— ліп. 1944 *партызанскай брыгады імя В. І. Чапаева.* Пасля вайны на гасп. і адм. рабоце.

**МАТЭВАСЯ́Н** Самвел Мінасавіч [н. 8.8.1912, с. Карабах Карскай вобл. (цяпер у Турцыі)], удзельнік абароны Брэсцкай крэпасці ў 1941. Скончыў Усходне-Сібірскі горны ін-т (1936). З 1939 у Чырв. Арміі. У першыя гадзіны вайны ў раёне Холмскіх варот Брэсцкай крэпасці ўзначаліў контратаку 3-га батальёна і штабных падраздзяленняў 84-га стралк. палка 6-й Арлоўскай Чырванасцяжнай стралк. дывізіі. Пасля цяжкага ранення захоплены ў палон. 1.9.1941 уцёк з палону. Удзельнічаў у падп. і партыз. барацьбе на Беларусі і Украіне. З лютага 1944 на фронце, камандзір роты, батальёна. 12.2.1945 вызначыўся ў баі пад г. Зарау (берлінскі напрамак). У 1946—74 на гасп. рабоце.

І. В. Матрунчык. Дз. С. Маўчанскі. Р. Ф. Махрынаў. С. С. Мацапура. І. В. Мацкевіч. А. Дз. Мацюшоў.



**МАТУСЕ́ВІЧ** Іван Іванавіч (1884, в. Лапаровічы Мінскага р-на — люты 1943), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў *Мінскага партыйнага падполля.* Чл. КПСС з 1917. У 1941 служачы на Мінскім чыг. вузле, удзельнічаў у эвакуацыі насельніцтва і абсталявання ў сав. тыл. У пач. акупацыі горада стварыў з Ф. С. *Кузняцовым* падп. парт. групу на вагонарамонтным з-дзе імя Мяснікова і быў яе членам. З мая 1942 член, з вер. 1942 сакратар Чыгуначнага падп. РК КП(б)Б г. Мінска. 2.10.1942 арыштаваны, загінуў у фаш. засценках. Пахаваны ў Мінску, дзе яго імем названа вуліца.

**МАТЫЛЬ** Іван Аляксандравіч (18.9. 1914, в. Дуброўскія Талачынскага р-на —27.6.1961), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсам.-маладзёжнага падполля і партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1940. Скончыў Камуніст. ін-т журналістыкі імя Кірава ў Мінску (1941). З 18.7. 1942 да 17.6.1943 сакратар *Магілёўскага падпольнага абкома ЛКСМБ* і адначасова з 24.8.1942 да 1.6.1943 сакратар *Бабруйскага падпольнага міжрайкома ЛКСМБ*, з 11.8 да 4.11.1942 чл. *Бабруйскага падпольнага міжрайкома КА(б)Б*, з 2.4 да 17.6.1943 чл. *Магілёўскага падпольнага абкома КП(б)Б.* З вер. 1943 рэдактар газ. *«Сталинская молодежь»*, потым газ. *«Чырвоная змена».* З 1952 рэдактар газ. «Гомельская праўда».

**МАТЭВАСЬЯ́Н** Хачык Агаджанавіч (15.5.1917, в. Чыр-Чыр Севанскага р-на Армянскай ССР — 7.9.1975), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Беластоцкай вобл. Чл. КПСС з 1970. Скончыў Ерэванскі ветэрынарны тэхнікум (1933), Мінскае ваен. пях. ву-

**МАТЭРЫЯ́ЛЬНЫЯ СТРА́ТЫ,** нанесеныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі Савецкаму Саюзу ў гады вайны. Вызначаны *Надзвычайнай Дзяржаўнай камісіяй* па ўстанаўленню і расследаванню злачынстваў ням.-фаш. захопнікаў і іх саўдзельнікаў на часова акупіраванай тэр. СССР. Страты склалі каля 30 % нац. багацця Сав. Саюза, у раёнах, што былі акупіраваны, каля 2/3. Складаліся са страт ад разбурэння, знішчэння і рабавання вытворчых фондаў, з ваен. выдаткаў, выкліканых неабходнасцю вядзення вайны і звязанай з ёю перабудовай эканомікі. Толькі прамыя страты (ад знішчэння і рабавання маёмасці грамадзян, калгасаў, грамадскіх арг-цый, дзярж. прадпрыемстваў і ўстаноў), нанесеныя Сав. дзяржаве, склалі 679 млрд. руб. (у цэнах 1941). Велізарныя страты ворагаў прычыніў нар. гаспадарцы і насельніцтву БССР. Рэспубліка страціла больш як палавіну свайго нац. багацця. Сума М. с. па БССР склала 75 млрд. руб. Гітлераўцы спалілі 209 з 270 бел. гарадоў і раённых цэнтраў. У Мінску, Віцебску, Оршы, Гомелі, Полацку, Маладзечне, Жлобіне і інш. разбурэнні склалі 70—90 % і вышэй. У сельскай мясцовасці фашысты знішчылі 9200 вёсак, спалілі 1,2 млн. пабудоў, у т. л. 420 996 хат калгаснікаў. Амаль 3 млн. чал. (каля 34 % даваен. насельніцтва) былі пазбаўлены жылля. Агульныя матэрыяльныя страты жыллёва-камунальнай гаспадаркі рэспублікі —4,7 млрд. руб. Фашысцкая акупацыя абяскровіла найважнейшыя галіны матэрыяльнай вытворчасці. Агульныя страты, якія нанесены прамысловасці БССР, склалі 6,2 млрд. руб. Гітлераўцы разбурылі 10 338 прадпрыемстваў, што склала 85 % даваен. з-даў і ф-к. Па прамысловай і энергетычнай магутнасцях рэспубліка была адкінута да ўзроўню 1913. У сельскай гаспадарцы вораг разрабаваў і спустошыў усе 10 тыс. калгасаў і 92 саўгасы з усім комплексам жывёлагадоўчых ферм, запасам гатунковага насення, доследнымі станцыямі і інш. Прычыненыя сельскай гаспадарцы маёмасныя страты склалі 22471,9 млн. руб., у т. л. калгасам 19389,9 млн. руб. Практычна не ўцалела ні адна з галін сельскай гаспадаркі. У параўнанні з 1940 на 43 % скараціліся пасяўныя плошчы. Зямля была скапана траншэямі, акопамі, бліндажамі, варонкамі ад бомб і снарадаў. Больш за 1 млн. га ворнай зямлі зараслі кустамі і пустазеллем. Знішчана, раскрадзена і адпраўлена ў Германію пераважная частка грамадскага статка: коней асталося 39 % ад даваен. ўзроўню, буйной рагатай жывёлы —31, авечак і коз —22, свіней — 11 %. 60 % калгасных сямей былі пазбаўлены сваёй асабістай жывёлы. Поўнасцю знішчана энергетычная і тэхн. база сельскай гаспадаркі. Гітлераўцы знішчылі 316 МТС, знішчылі і вывезлі ў Германію 8896 трактароў, больш за 1100 камбайнаў і шмат інш. с.-г. тэхнікі. Вялікім разбурэнням падвергся транспарт Беларусі — страты склалі 9547,6 млн. руб., у т. л. чыгуначныя 8118,2 млн. руб. Былі поўнасцю знішчаны 6026 км чыг. пуці, усе буйныя і сярэднія масты, дэпо, вакзалы, гасп. збудаванні, рамонтныя майстэрні. Страты воднага і аўтамабільнага транспарту рэспублікі склалі адпаведна 176 млн. руб. і 1253,4 млн. руб., арганізацый сувязі —347,2

млн. руб. Поўнасцю разбурана амаль 80 % гандлёвых прадпрыемстваў, таварных баз, сховішчаў для агародніны, складскіх памяшканняў. Вораг знішчыў тысячы ўстаноў асветы, аховы здароўя, навукі, культуры, у т. л. 8825 з 12 294 школ, навукова-даследчыя цэнтры, АН БССР, 219 бібліятэк, 5425 музеяў, тэатраў і клубаў, 2187 бальніц і амбулаторый, 2651 дзіцячую ўстанову. Самымі цяжкімі з усіх былі страты людзей — гал. багацця грамадства, яго асн. вытворчай сілы. Загінула больш за 2,2 млн. чал. (кожны чацвёрты жыхар рэспублікі), што складае больш як 11 % ад агульных людскіх страт краіны. На катаржныя работы ў фаш. Германію было вывезена каля 380 тыс. чал., з якіх многія дзесяткі тысяч загінулі ад непасільнай працы, невыносных нягод і катаванняў. Сав.Саюз у перыяд вайны, акрамя прамых, панёс і ўскосныя матэрыяльныя страты. Да іх належаць зніжэнне нац. даходу ад спынення і скарачэння работы прамысловых прадпрыемстваў, калгасна-саўгаснай вытворчасці, гандлю, транспарту, страты ад запаволення тэмпаў нар.-гасп. развіцця і інш., а таксама людскія страты ад скарачэння нараджальнасці (у параўнанні з мірным часам), поўнай альбо часовай страты працаздольнасці параненых, інвалідаў і г. д.

Агульныя М. с. Сав. дзяржавы ад вайны з Германіяй і Японіяй склалі 2569 млрд. руб., куды акрамя страт ад прамога знішчэння і разрабавання ўжо створаных рэсурсаў уваходзяць таксама бюджэтныя расходы на вайну —582,4 млрд. руб. і ўскосныя страты —1307,6 млрд. руб.

*Г. І. Аляхновіч.*

**МА́ЎРЫЧАЎ** Аляксандр Іванавіч (28.7. 1901, в. Вялікае-Нова, Чарапавецкі р-н Валагодскай вобл.—12.9.1974), ген.-маёр (1940). Чл. КПСС з 1920. Скончыў Омскую ваен. школу. З 1919 у Чырв. Арміі. Удзельнік грамадз. вайны, вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. З 22.6.1941 на Зах. фронце, камандаваў 108-й стралк. дывізіяй 44-га стралк. корпуса 13-й арміі. Дывізія пад камандаваннем М. вызначылася пры *Мінска абароне 1941* (займала ўчастак абароны ў Мінскім умацаваным раёне: Старое Сяло — Дзяржынск — Кукшэвічы, працягласцю каля 50 км), прарвала 2.7.1941 варожае кальцо акружэння, у вер. на Смаленшчыне злучылася з часцямі Чырв. Арміі. Удзельнік абароны Масквы, ваяваў на Заходнім, Калінінскім, Паўн.-Зах., Варонежскім, 1-м Укр. франтах. Да 1951 у Сав. Арміі.

**МАЎЧА́НСКІ** Дзмітрый Сцяпанавіч (26.10.1901, в. Рагатка Барысаўскага р-на —23.6.1979), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1927. Скончыў Камуніст. ін-т журналістыкі ў Мінску (1934), Вышэйшую школу парторганізатараў пры ЦК ВКП(б) (1946). Перад вайной сакратар Магілёўскага абкома КП(б)Б. З 1942 у ЦШПР, з 2.4.1943 да 23.4.1944 сакратар *Магілёўскага падпольнага абкома КП(б)Б*, адзін з кіраўнікоў *Магілёўскага партызанскага злучэння.* Пасля вайны сакратар Магілёўскага, Маладзечанскага абкомаў КПБ, на сав. рабоце. Канд. у чл. ЦК КП(б)Б у 1940—52, чл. Рэвізійнай камісіі КПБ у 1952—54. Дэп. ВС БССР у 1938—47. Яго імем названы вуліцы ў Магілёве і Маладзечне; на доме ў Маладзечне, дзе ён жыў, мемар. дошка. Ганаровы грамадзянін г. Маладзечна (1974).

**МАХАНЬКО́** Сямён Васілевіч (25.10. 1909, в. Слаўкавічы Глускага р-на — 10.5.1973), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Палескай вобл. Чл. КПСС з 1939. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1952). З 1936 на сав. рабоце, з 1939 інструктар Акцябрскага РК КП(б)Б. З чэрв. 1941 камісар знішчальнага батальёна ў Акцябрскім р-не. У партызанах з ліп. 1941: з жн. 1941 камісар атрада, у студз.— маі 1942 —«гарнізона Ф. І. Паўлоўскага», у маі 1942— ліст. 1943 камісар, адначасова ў крас.— кастр. 1943 в. а. камандзіра *партызанскай брыгады 123-й Акцябрскай імя 25-годдзя БССР,* у крас.— ліст. 1943 сакратар Акцябрскага падп. РК КП(б)Б. З ліст. 1943 у распараджэнні ЦК КП(б)Б. У 1944—71 на парт., сав. і гасп. рабоце.

**МАХРЫ́НАЎ** Рыгор Фёдаравіч (н. 15. 2. 1921, хутар Ніжне-Калінаўка Кашарскага р-на Растоўскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1946), ген.-маёр авіяцыі (1968). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Ваен.-паветр. акадэмію (1954). З чэрв. 1941 на Паўн., Ленінградскім, Паўн.-Зах., 1-м Бел. франтах. Зрабіў 199 баявых вылетаў. Камандзір звяна асобнага разведвальнага авіяпалка капітан М. вёў паветр. разведку ў раёне Бабруйска, Баранавіч, Слоніма. Вызначыўся ў маі 1944 у час разведкі ў раёне Брэста; на самалёце, які быў пашкоджаны агнём варожай артылерыі, выявіў на 4 аэрадромах 240 самалётаў праціўніка. Да 1973 у Сав. Арміі.

**МАЦАПУ́РА** Сяргей Сцяпанавіч (н. 15. 2.1919, в. Гдзень Брагінскага р-на), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1945. З 1941 на Цэнтр., Калінінскім, 1-м, 2-м Укр. і 1-м Бел. франтах. Вызначыўся пры вызваленні Польшчы. 18.1.1945 танк, у саставе экіпажа якога быў механік-вадзіцель старшына М., уварваўся ў г. Сахачаў, знішчыў варожую гармату, 10 мінамётаў і кулямётаў, 16 аўтамашын, 65 гітлераўцаў. 22.1.1945 у г. Інаўроцлаў пры захопе чыг., станцыі і аэрадрома праціўніка знішчыў 3 самалёты, цягнік, 15 аўтамашын, 49 гітлераўцаў. Да 1965 у Сав. Арміі, капітан.

**МАЦЕ́ВІЦКІ БОЙ 1943,** бой паміж падраздзяленнямі *партызанскага палка 208-га імя І. В. Сталіна, партызанскага палка 277-га, партызанскага атрада 345-га,* партыз. атрадам 130-м (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 130-я «Помста»*), 120-м партыз. атрадам (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 120-я)* і ням.-фаш. захопнікамі ў в. Мацевічы Бярэзінскага р-на 18.8. 1943. Батальён 700-га ахоўнага палка гітлераўцаў 15.8.1943 заняў в. Мацевічы для грабяжу с.-г. прадукцыі. Ноччу 18.8.1943 партызаны акружылі вёску і раптоўна напалі на ворага. За 1 гадз. бою было знішчана 138 і ўзята ў палон 37 гітлераўцаў, 5 партызан паранена; захоплена зброя і амуніцыя праціўніка, у т. л. 6 ручных кулямётаў, арт. гармата, 120 вінтовак, 2 перасоўныя радыёстанцыі, каля 60 коней, павозкі, боепрыпасы, харчаванне, а таксама нарабаванае акупантамі ў насельніцтва збожжа, знішчана некалькі аўтамашын. *У. С. Пасэ.*

**МАЦКЕ́ВІЧ** Ігнацій Вікенцьевіч (28.5. 1912, в. Заольша Лёзненскага р-на — 26.9.1943), Герой Сав. Саюза (1943). На фронце з крас. 1943. Вызначыўся пры вызваленні Брагінскага р-на. Рота на чале з лейтэнантам М. 22.9. 1943 першай пераправілася цераз Дняпро, захапіла плацдарм і в. Калыбань, адбіла 5 контратак. М. падбіў 2 танкі, знішчыў каля 50 гітлераўцаў. Загінуў у баі.

**МАЦЮ́ШКА** Варвара Феафілаўна (н. 2.11.1910, в. Гаяны Лагойскага р-на), адзін з арганізатараў *Мінскага партыйнага падполля.* Чл. КПСС з 1932. Скончыла БПІ (1935). З ліп. 1941 кіраўнік адной з падп. груп Варашылаўскага р-на Мінска. З мая 1942 чл. Варашылаўскага падп. РК КП(б)Б, нач. зоны Варашылаўскага р-на. Удзельнічала ў стварэнні падп. арг-цый на з-дах імя Леніна, цвіковым, «Беларусь», гарбарным заводзе «Бальшавік», Балотнай станцыі, у друкарні імя Сталіна. У кастр. 1942— крас. 1943 у партыз. брыгадзе «Народныя мсціўцы». З канца 1943 на кіруючай і гасп. рабоце. Канд. у чл. ЦК КП(б)Б у 1938—40, чл. ЦК КПБ у 1960—64, чл. Рэвіз. камісіі КПБ у 1961—65. Дэп. ВС БССР у 1938—51, 1959—63, нам. Старшыні Прэзідыума ВС БССР у 1959—63.

**МАЦЮШО́Ў** Аляксей Дзмітрыевіч (21.3.1916, в. Воўсішча Сенненскага р-на — 19.9.1943), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1941. Скончыў Харкаўскае ваен. вучылішча пагранічных войск (1940). На фронце з 1941. Вызначыўся ў баях за вызваленне Смаленшчыны ў вер. 1943. Узвод аўтаматчыкаў і 2 узводы 45-мм гармат на чале з нач. штаба палка маёрам М. зайшлі ў тыл ворагу і завязалі бой; знішчылі каля 200 гітлераўцаў, захапілі 4 мінамёты, 27 кулямётаў, 18 аўтамашын, 3 рацыі, 40 вінтовак. М. загінуў у баі. Пахаваны ў г. Дзямідаў Смаленскай вобл. Яго імем названа Латыгальская школа ў Сенненскім р-не.

**МАЧУ́ЛЬСКІ** Раман Навумавіч (н. 30.11.1903, в. Крываносы Старадарожскага р-на), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на Беларусі. Герой Сав. Саюза (1944). Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Чл. КПСС з 1928. З 1928 на гасп., сав. і парт. рабоце. У Айч. вайну ўпаўнаважаны

Р. Н. Мачульскі. П. М. Машэраў.





Помнік П. М. Машэраву у Віцебску.

ЦК КП(б)Б па Мінскай і Палескай абл., сакратар *Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б*, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў злучэння партыз. атрадаў Мінскай і Палескай абл., з кастр. 1942 да мая 1943 в. а. камандзіра *Мінскага партызанскага злучэння*, камандзір партыз. злучэння Барысаўска-Бягомльскай зоны. З вер. 1944 старшыня Мінскага аблвыканкома. З 1948 прадстаўнік Савета па справах калгасаў пры ўрадзе СССР па БССР. З 1950 1-ы сакратар Пінскага абкома КПБ. У 1954—59 старшыня Брэсцкага аблвыканкома. Чл. ЦК КПБ у 1949—60. Дэп. ВС СССР у 1954—62, ВС БССР у 1947—55, нам. Старшыні Прэзідыума ВС БССР у 1947—51. Аўтар кніг «Старонкі бессмяротнасці» (1972), «Людзі высокага абавязку» (1975), «Вечны агонь» (3 выд., 1978), «На вогненнай зямлі» (1983).

**МАШКО́Ў** Георгій Мікалаевіч (н. 18.8.1909,г. Красны Сулін Растоўскай вобл.), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1932. Скончыў ВПШ пры ЦК ВКП(б) (1949). З 1931 у Чырв. Арміі, з лют. 1941 на паліт. рабоце ў Зах. асобай ваен. акрузе. У партызанах з жн. 1941: з чэрв. 1942 камісар атрада, у сак.— вер. 1943— *партызанскай брыгады 100-й імя С. М. Кірава,* адначасова чл. Старадарожскага падп. РК КП(б)Б, у вер. 1943—ліп. 1944 сакратар *Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б.* Пасля вайны заг. аддзела, сакратар Мінскага абкома КПБ. У 1960—78 інспектар, заг., 1-ы нам. заг. аддзела, кіраўнік спраў ЦК КПБ. Канд. у чл. ЦК КПБ у 1961—81. Дэп. ВС БССР у 1963—80.

**МАШЭ́РАЎ** Пётр Міронавіч [13(26).2. 1918, в Шыркі Сенненскага р-на — 4.10.1980], сав. парт. і дзярж. дзеяч, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт.-камсам. падполля і партыз. руху на Беларусі. Герой Сав. Саюза (1944), Герой Сацыяліст. Працы (1978). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Віцебскі пед. ін-т (1939). У 1939—41 выкладчык фізікі і матэматыкі ў Расонскай сярэдняй школе Віцебскай вобл. У жн. 1941 стварыў і ўзначаліў *Расонскае партыйна-камсамольскае падполле.* З крас. 1942 камандзір партыз. атрада імя Шчорса, які дзейнічаў у Расонскім, Дрысенскім, Асвейскім р-нах БССР, у суседніх раёнах РСФСР і Латвійскай ССР. З сак. 1943 камісар *партызанскай брыгады імя К. К. Ракасоўскага* Віцебскай вобл. З вер. 1943 1-ы сакратар *Вілейскага падпольнага абкома ЛКСМБ.* У 1944—54 1-ы сакратар Маладзечанскага абкома, сакратар, 1-ы сакратар ЦК ЛКСМБ. З ліп. 1954 2-і сакратар Мінскага, з жн. 1955 1-ы сакратар Брэсцкага абкомаў КПБ. У 1959—65 сакратар, 2-і сакратар ЦК КПБ, з сак. 1965 1-ы сакратар ЦК КПБ. Канд. у чл. ЦК КПСС з 1961, чл. ЦК КПСС з 1964. Канд. у чл. Палітбюро ЦК КПСС з крас. 1966. Чл. ЦК КПБ з 1949; канд. у чл. Бюро ЦК КПБ з лют. 1949 да студз. 1956, чл. Бюро ЦК КПБ з крас. 1959 да снеж. 1962 і з чэрв. 1966, чл. Прэзідыума ЦК КПБ з снеж. 1962 да чэрв. 1966. Дэп. ВС СССР у 1950—62 і з 1966, чл. Прэзідыума ВС СССР з 1966. Дэп. ВС БССР у 1947—55 і з 1959, чл. Прэзідыума ВС БССР у 1951—55 і з 1963. У Віцебску ўстаноўлены бронзавы бюст М. Яго імем названы праспект, з-д аўтаматычных ліній у Мінску, Расонская сярэдняя школа, саўгас у Сенненскім р-не, калгас у Іванаўскім р-не, марское судна, вуліцы, піянерскія дружыны; устаноўлены мемар. дошкі ў Мінску на доме, дзе жыў М., і на будынку Віцебскага пед. ін-та. Аўтар кн. «Выбраныя прамовы і артыкулы» (1982).

**МЕДАЛІ́ СССР** (узнагародныя). Права ўстанаўлення М. СССР і ўзнагароджання імі належыць Прэзідыуму ВС СССР. Устанаўленне М. СССР пачалося ў 1938. Да вайны былі ўстаноўлены медалі «XX гадоў Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі» (24.1. 1938), «За адвагу», «За баявыя заслугі» (абедзве 17.10.1938), «За працоўную доблесць», «За працоўную адзнаку» (абедзве 27.12.1938), залаты медаль «Герой Савецкага Саюза» (1.8.1939, перайменаваны 16.10. 1939 у медаль «Залатая Зорка») уручаецца разам з ордэнам Леніна і Граматай Прэзідыума ВС СССР асобам, удастоеным звання *Героя Савецкага Саюза* (у Айч. вайну прысвоена 11 635 чал., у т. л. 443 воінам-беларусам і ўраджэнцам Беларусі; гэтай узнагароды ўдастоены 88 удзельнікаў падполля і партыз. руху на Беларусі); залаты медаль «Серп і Молат» (22.5.1940) — знак асаблівай адзнакі Героя Сацыяліст. Працы, уручаецца разам з ордэнам Леніна (у гады вайны звання Героя Сацыяліст. Працы ўдастоены 201 працаўнік сав. тылу). Асобам, узнагароджаным двойчы медалямі «Залатая Зорка» і «Серп і Молат», як і Героям Сав. Саюза, удастоеным яшчэ і звання Герой Сацыяліст. Працы, да жн. 1988 на радзіме ўстанаўліваліся бронзавыя бюсты. У час вайны для ўзнагароджання асоб, якія вызначыліся ў баях, і ў азнаменаванне важных падзей ў барацьбе з фаш. Германіяй спецыяльна ўстаноўлены М. СССР «За абарону Ленінграда», «За абарону Адэсы», «За абарону Севастопаля», «За абарону Сталінграда» (усе 22.12.1942); для ўзнагароджання партызан — «Партызану Айчыннай вайны» I і II ступеней (2.2. 1943, партызанам Беларусі іх уручана больш за 80 тыс.); для ўзнагароджання радавога, старшынскага і сяржанцкага саставу ВМФ, якія вызначыліся ў баях за Радзіму,— медалі Ушакова, Нахімава (абодва 3.3.1944); для ўзнагароджання ўдзельнікаў гераічнай абароны — «За абарону Масквы», «За абарону Каўказа» (абодва 1.5.1944), «За абарону Савецкага Запаляр'я» (5.12.1944). Былі ўстаноўлены таксама медалі «За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.» (9.5.1945), «За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.» (6.6.1945), «За ўзяцце Будапешта», «За ўзяцце Кёнігсберга», «За ўзяцце Вены», «За ўзяцце Берліна», «За вызваленне Бял-

града», «За вызваленне Варшавы», «За вызваленне Прагі» (усе 9.6.1945), «За перамогу над Японіяй» (30.9. 1945). Для ўзнагароджання мнага дзетных маці быў устаноўлены «Медаль мацярынства» I і II ступеней (8.7.1944), якога ўдастойваюцца жанчыны, што нарадзілі і выхавалі: 5 дзяцей — медаль II ступені, 6— I ступені. Да пач. вайны ўнагароджанне М. СССР праводзілася толькі Указам Прэзідыума ВС СССР. У гады вайны Прэзідыум ВС СССР даў права ўзнагароджання М. СССР Ваен. саветам франтоў, армій, флатоў і флаты-




1. Медаль «За адвагу». 2. Медаль Ушакова. 3. Медаль «За баявыя заслугі». 4. Медаль Нахімава. 5. Медаль «За працоўную доблесць». 6. Медаль «За працоўную адзнаку». 7. Медаль «Партызану Айчыннай вайны» I ступені. 8. Медаль «Партызану Айчыннай вайны» II ступені. 9. Медаль«За абарону Ленінграда». 10. Медаль «За абарону Масквы». 11. Медаль «За абарону Адэсы». 12. Медаль «За абарону Севастопаля». 13. Медаль «За абарону Сталінграда». 14. Медаль «За абарону Кіева». 15. Медаль «За абарону Каўказа».

22. Зак. 623.

лій. 10.11.1942 права ўзнагароджання ад імя Прэзідыума ВС СССР медалямі «За адвагу», «За баявыя заслугі», а з 3.3.1944 Ушакова, Нахімава байцоў і камандзіраў, якія вызначыліся ў барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі, было дадзена адпаведна ваеначальнікам — ад камандзіра палка і вышэй, з наступным зацвярджэннем узнагароджання Прэзідыумам ВС СССР. Шэраг М. СССР, узнагароджанне якімі праводзіцца і за заслугі ў гады вайны, устаноўлены пасля яе заканчэння: «За доблесную працу (За воінскую доблесць). У аз-




1. Медаль «За абарону Савецкага Запаляр'я». 2. Медаль «За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.». 3. Медаль «Дваццаць гадоў перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.». 4. Медаль «Трыццаць гадоў перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.». 5. Медаль «За перамогу над Японіяй». 6. Медаль «За ўзяцце Будапешта». 7. Медаль «За ўзяцце Кёнігсберга». 8. Медаль «За ўзяцце Вены». 9. Медаль «За ўзяцце Берліна». 10. Медаль «За вызваленне Бялграда». 11. Медаль «За вызваленне Варшавы». 12. Медаль «За вызваленне Прагі». 13. Медаль «За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.».

наменаванне 100-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна» (5.11.1969), «За абарону Кіева» (21.6. 1961), «Дваццаць гадоў перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.» (7.5.1965), «Трыццаць гадоў перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.» (25.4.1975), «Сорак гадоў перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.» (12.4.1985), «У памяць 800-годдзя Масквы» (20.9.1947), «У памяць 250-годдзя Ленінграда» (16.5.1957), «У памяць 1500-годдзя Кіева» (10.5.1982), «30 гадоў Савецкай Арміі і Флоту» (22.2.1948), «40 гадоў Узброеных Сіл СССР» (18.12. 1957), «50 гадоў Узброеных Сіл СССР» (26.12.1967), «Ветэран Узброеных Сіл СССР» (20.5.1976), «60 гадоў Узброеных Сіл СССР» (28.1. 1978), «70 гадоў Узброеных Сіл СССР» (28.1.1988). Пасля заканчэння вайны былі таксама ўстаноўлены М. СССР за заслугі ў працы па ліквідацыі цяжкіх вынікаў, нанесеных вайной нар. гаспадарцы СССР: «За аднаўленне вугальных шахт Данбаса» (10.9.1947), «За аднаўленне прадпрыемстваў чорнай металургіі Поўдня» (18.5.1948).

Правілы нашэння медалёў і *ордэнаў СССР* зацверджаны Указам Прэзідыума ВС СССР ад 28.3.1980. М. СССР носяць на левым баку грудзей пасля ордэнаў у рад справа налева ў наступным парадку: «За адвагу», Ушакова, «За баявыя заслугі», Нахімава, «За працоўную доблесць», «За працоўную адзнаку», «Партызану Айчыннай вайны» I і II ступеней, «За абарону Ленінграда», «За абарону Масквы», «За абарону Адэсы», «За абарону Севастопаля», «За абарону Сталінграда», «За абарону Кіева», «За абарону Каўказа», «За абарону Савецкага Запаляр'я», «За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941–1945 гг.», «Дваццаць гадоў перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.», «Трыццаць гадоў перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.», «Сорак гадоў перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.», «За перамогу над Японіяй», «За ўзяцце Будапешта», «За ўзяцце Кёнігсберга», «За ўзяцце Вены», «За ўзяцце Берліна», «За вызваленне Бялграда», «За вызваленне Варшавы», «За вызваленне Прагі», «За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.», «Ветэран Узброеных Сіл СССР», «За аднаўленне прадпрыемстваў чорнай металургіі Поўдня», «За аднаўленне вугальных шахт Данбаса», «XX гадоў Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі», «30 гадоў Савецкай Арміі і Флоту», «40 гадоў Узброеных Сіл СССР», «50 гадоў Узброеных Сіл СССР», «60 гадоў Узброеных Сіл СССР», «70 гадоў Узброеных Сіл СССР», «У памяць 800-годдзя Масквы», «У памяць 250-годдзя Ленінграда», «У памяць 1500-годдзя Кіева», «Медаль мацярынства» I і II ступені. Медалі «Залатая Зорка», і «Серп і Молат» носяць над ордэнамі і інш. медалямі. Медаль «За доблесную працу (За воінскую доблесць). У азнаменаванне 100-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна» размяшчаецца злева і вышэй ордэнаў і інш. медалёў, але ніжэй медалёў «Залатая Зорка» і «Серп і Молат». У выпадку смерці ўзнагароджанага яго М. і пасведчанне да яе пакідаюцца або перадаюцца яго сям'і для захавання як памяць.

Паводле Пастановы Прэзідыума ВС СССР ад 22.8.1988 паўторнае ўзнагароджанне Герояў Сав. Саюза і Герояў Сацыяліст. Працы адпаведна М. «Залатая Зорка» і «Серп і Молат» не ажыццяўляецца. Героям Сав. Саюза, якія з'яўляюцца адначасова і Героямі Сацыяліст. Працы, бронзавыя бюсты пры жыцці не ўстанаўліваюцца. Паўторнае прадстаўленне да ўзнагароджання іншымі аднайменнымі М., акрамя медалёў, якія маюць ступені, ажыццяўляецца ў выключных выпадках. Наступнае прадстаўленне да ўзнагароджання М. магчыма, як правіла, не раней, чым праз 5 гадоў пасля папярэдняга ўзнагароджання дзяржаўнай узнагародай СССР. За мужнасць і адвагу, праяўленыя пры выкананні грамадзянскага і воінскага абавязку, грамадзяне СССР могуць прадстаўляцца да наступнага ўзнагароджання незалежна ад часу папярэдняга ўзнагароджання. Кандыдатуры для ўзнагароджання М. СССР разглядаюцца на сходзе працоўнага калектыву або яго саветам.

*А. С. Харэбін.*

**МЕ́ДНІКАЎ** Георгій Фролавіч (н. 1.1. 1920, в. Усць-Кензар Расказаўскага р-на Тамбоўскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл. З 1935 рабочы. У партызанах з вер. 1941: радавы, з вер. 1942 нач. штаба, з сак. 1943 камандзір атрада, у студз.— чэрв. 1944 камандзір *партызанскага палка 600-га*. Пасля вайны на адм.-гасп. рабоце ў Гродне і Мінску.

**МЕДЫЦЫ́НСКАЯ ДАПАМО́ГА ПАРТЫЗА́НАМ І НАСЕ́ЛЬНІЦТВУ ПАРТЫЗА́НСКІХ ЗОН** акупіраванай тэр. Беларусі. З зараджэннем партыз. руху на Беларусі на шлях барацьбы з акупантамі сталі і мед. работнікі — урачы, фельчары, медсёстры, фармацэўты. Камплектаванне партыз. атрадаў і брыгад мед. кадрамі адбывалася з ліку мясцовых мед. работнікаў, а таксама ваен. медыкаў, што трапілі ў акружэнне ці ўцяклі з лагераў ваеннапалонных. Першыя медпункты ў партыз. фарміраваннях узніклі ў сак.-крас. 1942. З ростам колькасці партызан і разгортваннем іх баявой дзейнасці ўзнікла неабходнасць у стварэнні партыз. медыка-сан. часцей і шпіталяў. У пач. 1943 *Цэнтральны штаб партызанскага руху* загадам абавязаў кіраўніцтва ўсіх партыз. атрадаў, брыгад і злучэнняў стварыць мед. службу на чале з урачамі.

Мед. дапамога партызанам і насельніцтву акупіраванай тэр. Беларусі палепшылася пасля стварэння *Беларускага штаба партызанскага руху*, у якім для арганізацыі мед. абслугоўвання партызан у сак. 1943 створаны сан. аддзел на чале з І. А. *Інсаравым*. Расла колькасць урачоў-партызан: у канцы 1942 іх было 166, у канцы 1943—538, на час злучэння з часцямі Чырв. Арміі —570 урачоў і больш за 2 тыс. спецыялістаў сярэдняга медперсаналу. Паводле звестак сан. аддзела БШПР сярод урачоў-партызан было 33,5 % агульнага профілю, 30,4 хірургаў, 24,6 % тэрапеўтаў. Частка медсясцёр была прыслана сан. аддзелам БШПР, частка падрыхтавана на кароткатэрміновых курсах на месцы.



Дапамога параненым. Партызанскі атрад імя М. Ц. Шыша брыгады імя В. М. Молатава. Пінская вобл.

Для стацыянарнага лячэння ствараліся партыз. шпіталі, якія найчасцей складаліся з хірургічнага, тэрапеўтычнага і інфекцыйнага аддзяленняў. Размяшчаліся яны ў сялянскіх хатах партыз. зон, недаступных для ворага лясах, дзе былі пабудаваны дамы, зямлянкі, шалашы, тайнікі. Стацыянары партыз. атрадаў мелі 5—7 ложкаў, брыгад —15—20, злучэн

няў — каля 100. Ва ўмовах баявых дзеянняў існавалі рухомыя шпіталі, калі хворых вазілі на калёсах ці санях. У многіх шпіталях працавалі вопытныя ўрачы, якія рабілі складаныя аперацыі, лячылі цяжкія захворванні, аказвалі кваліфікаваную дапамогу параненым у баявой абстаноўцы. Партызанскія ўрачы, фельчары і медсёстры аказвалі мед. дапамогу цывільнаму насельніцтву. Каля 15—20 % іх пацыентаў складалі мясцовыя жыхары, праведзена лячэнне больш як 135 тыс. чалавек. У шпіталях праводзілася перакваліфікацыя ўрачоў інш. профіляў на хірургаў і тэрапеўтаў, патрэба ў якіх была больш вострай. Для абмену вопытам і абмеркавання актуальных пытанняў начальнікі мед.-сан. службаў і ўрачы збіраліся на канферэнцыі. Першая канферэнцыя ўрачоў партызан Мінскага злучэння адбылася ў жн. 1943 ў лесе каля в. Рэпін Акцябрскага р-на, на ёй прысутнічала 18 чалавек. Такія канферэнцыі адбыліся ў Брэсцкім, Магілёўскім і інш. партыз. злучэннях.

Складанай праблемай было набыццё медыкаментаў і інструментаў. У 1941—42 дапамогу ў гэтым аказвалі падпольшчыкі, асабліва ўрачы і фармацэўты, якія здабывалі іх у лячэбных установах акупантаў і перадавалі партызанам праз сувязных. Партызанскія аптэкі таксама папаўняліся праз падпольшчыкаў і ў час разгрому варожых гарнізонаў. Шырока выкарыстоўваліся лекавыя расліны і нар. сродкі. Становішча значна палепшылася, калі БШПР арганізаваў дастаўку партызанам медыкаментаў, інструментаў і перавязачных матэрыялаў на самалётах. Санітарны аддзел БШПР меў сваю базу мед. маёмасці з філіяламі пры аператыўных групах франтоў, радыёсувязь з начальнікамі мед. службы партыз. злучэнняў і некаторых брыгад. Толькі з восені 1943 да 20.6.1944 партызанам перапраўлена больш за 44 тоны мед. грузаў. У 1943—44 большасць партызан была забяспечана індывідуальнымі перавязачнымі пакетамі. Цяжка параненых і хворых, якім патрэбна было працяглае лячэнне, эвакуіравалі ў сав. тыл спачатку праз *Віцебскія «вароты»*, а з кастр. 1942— самалётамі (гл. *Дапамога савецкага тылу партызанам).*

Медыцынскія работнікі праяўлялі клопат аб падтрыманні ў партыз. фарміраваннях і населеных пунктах партыз. зон здаровай сан. эпідэміялагічнай абстаноўкі. Калі сярод насельніцтва ўзнікла эпідэмія сыпнога тыфу, прымаліся меры, каб не дапусціць распаўсюджання яе сярод партызан: устанаўліваўся каранцін, для тых, хто вярнуўся з задання, ствараліся ізалятары, рабіліся прывіўкі, праводзілася дэзінфекцыя бялізны і вопраткі, рэгулярнае мыццё ў лазнях. З кастр. 1943 да лют. 1944 сан. аддзел БШПР пераправіў у партыз. зоны 181 тыс. см$^3$ сыпнатыфознай вакцыны, што дазволіла зрабіць прывіўкі партызанам Брэсцкага, Мінскага, Пінскага партыз. злучэнняў і большасці брыгад Віцебскай вобл. За 1943—44 партызанам дастаўлена 195 літраў розных вакцын.

Паводле звестак БШПР з 15 тыс. параненых партызанскія медыкі вярнулі ў строй 78,4 %, эвакуіравалі ў сав. тыл 15,8 % (інвалідамі сталі 2,4 %; памерлі 3,4 %). Аказваючы мед. дапамогу партызанам і насельніцтву, яны адначасова заставаліся байцамі, са зброяй у руках удзельнічалі ў баявых аперацыях. Узорам самаадданага служэння Радзіме, вернасці абавязку з'яўляліся ўрачы А. Г. Берштэйн, М. І. Варановіч, А. Ф. Верабʼёў, М. М. Герасіменка, П. П. Гуськоў, А. Л. Дарасінскі, І. Л. Друян, Н. А. Жураўская, У. У. Забродскі, М. С. Завацкая, І. Б. Кардаш, М. П. Кніга, Г. С. Кокіна, Р. А. Краснапёрка, І. К. Крук, Н. Г. Лагуцін, В. П. Лапцейка, М. Ц. Макееў, М. М. Мшыхін, М. В. Паўлавец, Р. А. Сырнікаў, Ю. І. Тайц, Дз. А. Тарнаповіч, Р. Я. Цэмахаў, К. П. Чэпік, К. С. Шадурскі, С. М. Швец, С. Я. Штэмпель, А. І. Шуба, Н. Г. Юзбашаў і інш. У барацьбе з ням.-фаш. акупантамі загінулі каля 350 медыкаў — партызан Беларусі. Многія мед. работнікі за мужнасць і гераізм адзначаны баявымі ўзнагародамі. Удзельніку Мінскага партыйнага падполля прафесару Я. У. Клумаву прысвоена званне Героя Сав. Саюза; медсястра партыз. брыгады імя С. М. Кірава Мінскай вобл. А. М. Шаўчэнка, якая вынесла з поля бою 139 параненых, узнагароджана ордэнам Леніна і вышэйшай узнагародай Міжнароднага к-та Чырвонага Крыжа медалём Флорэнс Найцінгейл.

*А. К. Касач.*



Мемарыяльны комплекс савецка-польскай баявой садружнасці. Помнік савецкім і польскім воінам.



Мемарыял воінскай славы на Лудчыцкай вышыні.

**МЕ́ЖАЛЫ**, вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на Пн ад в. Крывасельцы Бігосаўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жылі 84 чал. У сак. 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»*, фашысты загубілі 57 жыхароў, вёску (18 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1975 на месцы вёскі насыпаны курган, па-

стаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь*.

**МЕ́ЖАЎСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ**, састаўная частка *Расонскага партыйна-камсамольскага падполля*. Дзейнічала з жн. 1941 да вер. 1942. Кіраўнік камуніст Р. А Ахоцін. Аб'ядноўвала 12 чал., у т. л. 7 камуністаў.

Падпольшчыкі распаўсюджвалі сярод насельніцтва зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі; вывелі са строю некалькі мастоў, у т. л. 60-метровы каля в. Дзмітрава і 30-метровы каля в. Ваўкі, замарозілі на ням. складзе 750 т бульбы. Зрывалі мерапрыемствы акупац. улад па збору ў насельніцтва прадуктаў харчавання, цёплага адзення і абутку для ням.-фаш. войск, вялі разведку. Рыхтуючыся да партыз. барацьбы, падбіралі людзей. У маі 1942 арганізавалі партыз. атрад імя Сталіна, камандзірам якога стаў Ахоцін, камісарам П. Я. Рубіс, нач. штаба М. М. Лутковскі. Да моманту адыходу ў партызаны група была поўнасцю ўзброена, мела 4 ручных кулямёты, больш 20 гранат, некалькі скрынак патронаў, нарыхтавала з дапамогай насельніцтва 50 пудоў зерня, вял. колькасць мяса, бульбы, фуражу. За кошт падрыхтаванага людскога рэзерву штабам па арганізацыі і кіраўніцтву партыз. атрадамі сфарміравана некалькі атрадаў, якія ўвайшлі ў ліп. 1942 у партыз. брыгаду «За Савецкую Беларусь».

Дзейнасць падполля ўвекавечана ў *Расонскім музеі баявой садружнасці* рус., бел., латвійскіх і літоўскіх партызан. *Л. А. Папкоўскі.*

**МЕ́ЛЬНІКАЎ** Андрэй Іосіфавіч (1914, в. Колбава Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл. — 29.10.1943). Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1939. Скончыў Харкаўскае ваенна-паліт. вучылішча (1941). На фронце з 1941. Нам. камандзіра па палітчастцы арт. дывізіёна капітан М. вызначыўся пры вызваленні Украіны. У баях за г. Бахмач кіраваў агнём 4 гармат, знішчаны 2 танкі, самаходная гармата, каля 2 рот пяхоты. 26.9.1943 з групай разведчыкаў фарсіраваў Дняпро на Пн ад Кіева. Кіраваў боем, у якім знішчаны мінамётныя і процітанк. батарэі, 4 кулямётныя кропкі, каля ўзвода пяхоты праціўніка. Загінуў у баі. Яго імем названы школа і вуліца ў в. Чыгірынка Кіраўскага р-на.

**МЕ́ЛЬНІКАЎ** Уладзімір Васілевіч (2.6.1909, г. Кунгур Пермскай вобл.— 22.1.1961), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1931. Скончыў ВПШ пры ЦК ВКП(б) (1952). У 1931—41 у Чырв. Арміі. У партызанах з мая 1942: камандзір групы, атрада, у чэрв. 1942— ліп. 1944 *партызанскай брыгады імя В. І. Чапаева*, адначасова чл. Ушацкага падп. РК КП(б)Б. З 1944 на парт. рабоце.

**МЕ́ЛЬНІКАЎ** Ціхан Уладзіміравіч (н. 15.6.1913, г. Чавусы), ген.-лейт. артылерыі (1968). Чл. КПСС з 1943. Скончыў арт. школу (1937), Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1955). Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. У Айч. вайну на Зах., Паўн.-Зах., Варонежскім, 1-м Укр. франтах: нач. штаба арт. дывізіёна, камандзір зеніт. нага арт. палка. Удзельнік баёў пад Мінскам, Вязьмай, Арлом, Кіевам, Львовам, вызвалення Полынчы, Берлінскай і Дрэздэнскай аперацый. Да 1973 на камандных пасадах у Сав. Арміі.

**МЕМАРЫЯ́Л ВО́ІНСКАЙ СЛА́ВЫ** на Лудчыцкай вышыні (каля в. Лудчыцы Быхаўскага р-на). Адкрыты 24.6.1984 на месцы жорсткіх баёў за вызваленне Беларусі ў 1944. Аўтары — скульпт. П. Белавусаў, У. Лятун, арх. В. Бялянкін, інж. Б. Шчарбакоў. Сэнсавая дамінанта мемарыяла — пастаўленая на кургане сімвалічная фігура Баяна (выш. 10 м), які апявае подзвіг воінаўгерояў. Каля падножжа кургана авальная пляцоўка, па краі яе на ўвагнутай сцяне-стэле змешчаны гарэльефныя партрэты Герояў Сав. Саюза, якім прысвоена гэта званне за баі на Быхаўшчыне: І. А. Барысевіча, П. Дз. Вінічэнкі, С. *Іскалiева*, У. К. Мартынава, Г. С. Размадзе, Г. Якубава (выш. каля 3,5 м); пад партрэтамі імёны і званні герояў. На пляцоўцы ўстаноўлена абліцаваная гранітам стэла (выш. каля 3 м) з інфармацыйным надпісам і запалены Вечны агонь.



А. І. Мельнікаў.

**МЕМАРЫ́ЯЛЬНЫ КО́МПЛЕКС САВЕ́ЦКА-ПО́ЛЬСКАЙ БАЯВО́Й САДРУ́ЖНАСЦІ**. Створаны ў 1968 у в. Леніна Горацкага р-на на месцы першай сумеснай бітвы часцей Чырв. Арміі і сфарміраванай у СССР 1-й Польскай пях. дывізіі імя Т. Касцюшкі супраць ням.-фаш. захопнікаў, якая адбылася 12—13.10.1943. Адкрыты 15.10.1968 у 25-ю гадавіну бітвы, з якой вядзецца гісторыя Войска Польскага. Цэнтр кампазіцыі комплексу (арх. Я. Белапольскі, В. Хавін, скульпт. У. Цыгаль) — купальны будынак *музея савецка-польскай баявой садружнасці* з жалезабетону, шкла і алюмінію, зроблены ў форме каскі (дыяметр 34 м, выш. 11 м). Перад уваходам у музей бетонная стэла, увянчаная выявай сцяга, дрэўка якога сціскаюць 2 моцныя рукі. У ніжняй ч. стэлы на польскай і рус. мовах надпіс «СССР — Польшча, 1943 год». На ПнУ ад музея 2 надмагільныя пліты з лабрадарыту на ўшанаванне памяці загінуўшых сав. і польскіх воінаў з надпісамі-прысвячэннямі на польскай, рус. і бел. мовах. Паміж плітамі пастаўлены кавалак брані з прабоінамі, які сімвалізуе загартаваную ў баях непарушную сав.-польскую дружбу. Перад надмагіллямі запалены Вечны агонь. На тэр. вёскі, на месцы былых баявых пазіцый брацкія магілы сав. і польскіх воінаў. На брацкай магіле сав. воінаў — блок з чырвонага граніту, сячэнне якога ўяўляе сабой 5-канцовую зорку з надпісам-прысвячэннем на рус. мове ў цэнтры; на брацкай магіле польскіх воінаў — сцяна з шэрага граніту з надпісам-прысвячэннем на польскай і бел. мовах. У цэнтры сцяны на бронзавым картушы ў абрамленні прыспушчаных сцягоў даты бітвы пад Леніна і выявы 2 скрыжаваных лаўровых галінак.



Мемарыяльны комплекс савецка-польскай баявой садружнасці. Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.

**МЕМАРЫ́ЯЛЬНЫ КО́МПЛЕКС У ГО́НАР САВЕ́ЦКІХ ВО́ІНАЎ-ВЫЗВАЛІ́ЦЕЛЯЎ, ПАРТЫЗА́Н І ПАДПО́ЛЬШЧЫКАЎ** Віцебшчыны. Створаны ў 1974 у Віцебску на пл. Перамогі (арх. Ю. Шпіт,

скульпт. Б. Маркаў, Я. Печкін, інж. У. Жураўскі).

Па цэнтр. восі мемарыяла на высокім абрыве над ракой узвышаецца гал. манумент, які сімвалізуе сумесныя намаганні Сав. Арміі, партызан і падпольшчыкаў у вызваленні Віцебшчыны ад ням.-фаш. захопнікаў. Манумент складаецца з 3 пілонаў-абеліскаў (выш. 56 м), звужаных уверсе і аб'яднаных на выш. 5 м трохгранным маналітным фрызам, на гранях якога рэльефы «Воіны», «Партызаны», «Падпольшчыкі». Унутры помніка пілоны-абеліскі злучаны кальцом з надпісам «Слава героям», завершаным паўсферай з адтулінай уверсе; унізе, на невысокім стылабаце ў выглядзе 5-канцовай зоркі з чырвонага граніту,— Вечны агонь. Да гал. манумента вядзе праход паміж 2 доўгімі басейнамі, з вонкавага боку якіх пастаўлена па 5 пілонаў з датамі (на кожным — адзін з 5 гадоў вайны). Ад манумента да Зах. Дзвіны вядуць лесвіцы.



Мемарыяльны комплекс савецка-польскай баявой садружнасці. Помнік на брацкай магіле польскіх воінаў.

**МЕМУА́РЫ** удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. На Беларусі выходзяць з пач. 1950-х г. асобнымі выданнямі, публікуюцца ў зборніках, перыядычных выданнях. Аўтарамі выступаюць былыя парт. і сав. работнікі, дзярж. і грамадскія дзеячы, военачальнікі, воіны, партызаны, падпольшчыкі, працаўнікі сав. тылу, дзеячы навукі і культуры. Мемуарысты творча супрацоўнічаюць з літаратарамі і гісторыкамі, якія ажыццяўляюць літаратурны запіс і апрацоўку, навуковую зверку. М. раскрываюць бессмяротны подзвіг сав. народа ў гады вайны, паказваюць кіруючую ролю Камуніст. партыі ў справе арганізацыі разгрому захопнікаў. Выступаючы як важны сродак у справе ваенна-патрыятычнага выхавання, М. адначасова з'яўляюцца каштоўнымі гіст. крыніцамі, якія дапаўняюць інфармацыю, што адсутнічае ў дакументах.

Звесткі аб барацьбе на франтах вайны, укладзе працоўных Беларусі ў разгром ням.-фаш. захопнікаў ёсць у М. военачальнікаў Г. К. Жукава, А. М. Васілеўскага, К. К. Ракасоўскага, І. Х. Баграмяна і інш. У М., якія выдаюцца ў рэспубліцы, вядучае месца займае тэма ўсенар. барацьбы супраць ням.-фаш. захопнікаў у тыле ворага. М. удзельнікаў усенар. барацьбы на Беларусі ўтрымліваюць звесткі аб кіруючай ролі Кампартыі Беларусі ў арганізацыі партыз. руху і падполля ў 1941—44. Яны сведчаць аб сав. патрыятызме і гераізме рабочых, калгаснікаў, інтэлігенцыі. У іх раскрываюцца формы і метады партыз. і падп. барацьбы, апісваюцца найбольш яркія і характэрныя яе эпізоды, паказваецца канкрэтны ўдзел некаторых асоб.

Вялікае месца адводзіцца паказу парт.-паліт. работы сярод партызан, падпольшчыкаў і насельніцтва. Сярод аўтараў М. сакратар ЦК КП(б)Б, нач. БШПР П. З. Калінін, сакратар ЦК ЛКСМБ К. Т. Мазураў, сакратары Вілейскага, Віцебскага, Мінскага, Палескага падп. абкомаў партыі І. Ф. Клімаў, Я. А. Жылянін, І. Б. Пазнякоў, В. І. Казлоў, Р. Н. Мачульскі, І. Дз. Вятроў, работнікі БШПР А. І. Брюханаў і І. М. Арцем'еў, члены Магілёўскага, Мінскага, Баранавіцкага, Брэсцкага, Віцебскага, Гомельскага падп. абкомаў партыі М. П. Каралёў, І. Л. Сацункевіч, С. П. Шупеня, В. Ф. Каліберaў, В. І. Лузгін, А. Дз. Рудак, сакратар Брэсцкага падп. абкома ЛКСМБ Ф. Дз. Рома і чл. Мінскага падп. абкома ЛКСМБ Ю. А. Дзенісевіч. Вялікую групу мемуарыстаў складаюць сакратары і члены падп. міжрайкомаў, гаркомаў, райкомаў партыі і камсамола, камандзіры, камісары, начальнікі штабоў партыз. брыгад і атрадаў: Г. В. Будай, С. А. Ваўпшасаў, І. П. Дзядзюля, І. М. Дзёмін, М. А. Дзмітрыеў, С. Р. Жунін, І. К. Захараў, І. Ц. Зуевіч, М. К. Ільінкоўскі, А. Ц. Караткевіч, Д. М. Лемяшонак, С. П. Ляснічы, С. К. Ляшчэня, В. І. Лівенцаў, У. Е. Лабанок, П. Р. Мартысюк, М. А. Міхайлашаў, П. В. Пранягін, Я. М. Прахарэнка, І. П. Ціткоў, Дз. В. Цябут, І. А. Хімічоў, Г. А. Храмовіч і інш. У ліку аўтараў М. радавыя партызаны і падпольшчыкі Ф. А. Бачыла, Э. В. Лаўрыновіч, А. Р. Мазанік, У. А. Парахневіч і інш., былыя вязні фаш. лагераў смерці, сведкі зверстваў акупантаў Н. Ц. Цвяткова, З. М. Лішакова, М. П. Гірыловіч і інш.

Выдадзены тэматычныя зборнікі М., якія можна аб'яднаць у некалькі груп: М. сав. военачальнікаў, парт. і сав. работнікаў, воінаў Чырв. Арміі, партызан і падпольшчыкаў, якія асвятляюць падзеі першых дзён вайны на тэр. Беларусі, абарону Брэсцкай крэпасці, Мінска, Магілёва, баі за вызваленне Беларусі, узаемадзеянне партызан з часцямі Чырв. Арміі [зборнікі «У баях за Беларусь» (2 выд. 1974), «Гераічная абарона» (4 выд. 1971), «Буг у агні» (3 выд. 1977), «Салдатамі былі ўсе» (2 выд. 1972) і інш.]; зборнікі, прысвечаныя гісторыі ўсенар. барацьбы на Беларусі [«Партызанская барацьба беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны» (1959), «З гісторыі партызанскага руху ў Беларусі (1941—1944 гады)» (1961), «Партыйнае падполле ў Беларусі. 1941—1944» (кн. 1—3, 1984—86), «За край родны: Успаміны партызан і падпольшчыкаў Баранавіцкай вобласці» (1978), «Вяла нас партыя: Успаміны партызан і падпольшчыкаў Магілёўскай вобласці перыяду Вялікай Айчыннай вайны» (1984), «У прынёманскіх лясах: Успаміны партызан і падпольшчыкаў» (1975), «У грозныя гады: Успаміны ўдзельнікаў барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў на тэрыторыі Гомельскай і Палескай абласцей» (1973), «Людзі Нарачанскага краю» (1975) і інш.]; зборнікі, якія адлюстроўваюць сумесную з польскімі і чэхаславацкімі патрыётамі, ням. антыфашыстамі барацьбу сав. партызан і падпольшчыкаў супраць акупантаў [«У адзіным страі» (1970), «Агні партызанскай дружбы» (1962), «У лясах Беларусі» (1977)]; зборнікі, прысвечаныя дзейнасці асобных партыз. фарміраванняў і падп. арг-цый [«Рэйдавая ў паходзе: Успаміны партызан-флегантаўцаў» (1984), «Скрозь агонь і смерць» (1970)]. Аб працоўным подзвігу насельніцтва Беларусі па аднаўленню нар. гаспадаркі расказваюць мемуары І. М. Макарава, Дз. В. Цябута і інш.

На Беларусі асобнымі выданнямі апублікавана больш за 200 назваў М. Пры рабоце з М. належыць улічваць асаблівасць іх паходжання, суб'ектыўныя магчымасці аўтараў аб'ектыўна адлюстраваць тыя або іншыя падзеі. *М. Ф. Шумейка.*

**МЕ́РКУЛЬ** Васіль Цімафеевіч (1897, в. Кураўшчына Аршанскага р-на — 12.11.1944), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1925. Скончыў Камуніст. ун-т Беларусі імя Леніна (1932). З 1919 у Чырв. Арміі. Удзельнік грамадз. вайны. З 1924 на гасп. і сав. рабоце. У партызанах з ліп. 1941: камандзір атрада, адначасова з жн. 1941 да восені 1942 чл. Старобінскай раённай парт. тройкі, у чэрв. 1943— ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады 101-й імя Аляксандра Неўскага*, адначасова ў сак. 1943— ліп. 1944 сакратар Старобінскага падп. РК КП(б)Б. З ліп. 1944 нам. старшыні Мінскага аблвыканкома.

**МІЁРЫ,** горад, цэнтр Міёрскага р-на, на беразе Міёрскага возера. За 180 км на ПнЗ ад Віцебска, чыг. станцыя на лініі Варапаева — Друя, аўтадарогамі злучаны з Полацкам, Верхнядзвінскам, Браславам, Шаркоўшчынай. Да 1957 вёска. 3.7.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў М. і раёне 1902 чал. У М. і раёне дзейнічалі Міёрскія падп. райкомы КП(б)Б (29.8.1943—2.7.1944) і ЛКСМБ (25.10.1943—2.7.1944), партыз. брыгады імя Ракасоўскага, імя

Жукава, «Кастрычнік», 4-я Беларуская, імя Калініна, імя С. М. Караткіна, 16-я Смаленская (гл. адпаведныя артыкулы); выдавалася падп. газ. *«Кліч партызана»*. Вызвалены 4.7. 1944 у ходзе *Полацкай аперацыі 1944* воінамі 9-й гвардз. стралк. дывізіі (палк. Я. Я. Вербаў) 2-га гвардз. стралк. корпуса, 270-й стралк. дывізіі (ген.-маёр І. П. Бяляеў) 103-га стралк. корпуса 6-й гвардз. арміі 1-га Прыбалт. фронту разам з партыз. брыгадамі «Кастрычнік» (І. І. Юкша), імя Калініна (Ф. Н. Гаўрыленка). У М. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, на ёй пастаўлены помнік, насыпаны курган Славы, помнік Вызвалення. *У. М. Якубоўскі.*

**МІЖРАЁННЫЯ (АКРУГОВЫЯ) АНТЫФАШЫСЦКІЯ АРГАНІЗАЦЫІ**, падпольныя патрыятычныя арг-цыі, якія дзейнічалі ў 1942—43 на акупіраванай тэр. Баранавіцкай, Беластоцкай і Брэсцкай абл. Аб'ядноўвалі антыфаш. арг-цыі сумежных р-наў. Вядучую ролю ў іх дзейнасці адыгралі камуністы, былыя чл. КПЗБ і КСМЗБ. Баранавіцкую акруговую антыфаш. арг-цыю ўзначальваў Акруговы беларускі антыфаш. к-т, у Беластоцкай вобл.— Беластоцкі міжраённы антыфаш. к-т, у Брэсцкай — «Камітэт барацьбы з нямецкімі акупантамі». У састаў к-таў уваходзілі старшыня, сакратар, яго намеснікі і члены, якія займаліся канкрэтнымі ўчасткамі работы.

Арг-цыі вялі вусную і друкаваную прапаганду і агітацыю, удзельнічалі ў арганізацыі партыз. груп і атрадаў, забяспячэнні іх зброяй, боепрыпасамі, харчамі, медыкаментамі і інш. рыштункам, ажыццяўлялі сумесную з партызанамі дыверсійна-баявую работу. Пад іх кіраўніцтвам ствараліся і дзейнічалі *раённыя антыфашысцкія арганізацыі.* *Л. В. Аржаева, П. П. Ліпіла.*

**МІЖРАЁННЫЯ ПАДПОЛЬНЫЯ КАМІТЭТЫ КП(б)Б**, міжрайкомы КП(б)Б, кіруючыя парт. органы на акупіраванай ням.-фаш. захопнікамі тэр. Беларусі ў 1942—44 (у Баранавіцкай і частцы Мінскай абл. называліся *міжраённымі падпольнымі партыйнымі цэнтрамі*). Ствараліся і дзейнічалі пад кіраўніцтвам *Цэнтральнага Камітэта КП(б)Б* і *абласных падпольных камітэтаў КП(б)Б.*

Арганізоўвалі і ўзначальвалі ў замацаваных за імі некалькіх раёнах падп. парт. органы, арг-цыі і групы, кіравалі парт. падполлем і партыз. рухам, праводзілі паліт. і арганізатарскую работу сярод насельніцтва, выдавалі газеты (гл. *Партыйнае падполле, Друк падпольны*). Адначасова яны дапамагалі абкомам падбіраць і рыхтаваць кадры для падп. гаркомаў і райкомаў партыі ў зонах сваёй дзейнасці.

Усяго дзейнічала 11 міжрайкомаў КП(б)Б: Аўгустоўскі, Бабруйскі, Браньскі, Брэсцка-Жабінкаўскі, Быценскі, Жлобінскі, Лапскі, Маларыцка-Дамачоўскі, Мінскі, Слуцкі, Чыжаўскі (гл. адпаведныя артыкулы). Пасля стварэння і арганізацыйнага ўмацавання *раённых падпольных камітэтаў КП(б)Б* міжрайкомы ліквідаваны. *А. А. Каваленя.*

**МІЖРАЁННЫЯ ПАДПОЛЬНЫЯ КАМІТЭТЫ ЛКСМБ**, міжрайкомы ЛКСМБ, кіруючыя камсам. органы на акупіраванай ням.-фаш. захопнікамі тэр. Баранавіцкай, Гомельскай, Магілёўскай і Мінскай абл. у 1942—43. У Баранавіцкай вобл. называліся *міжраённымі падпольнымі цэнтрамі ЛКСМБ*. Ствараліся *Цэнтральным камітэтам ЛКСМБ*, падп. парт. органамі, абкомамі ЛКСМБ, працавалі пад іх кіраўніцтвам.

У сувязі з недахопам кіруючых камсам. кадраў у тыле праціўніка ў пач. сваёй дзейнасці міжрайкомы (міжрайцэнтры) узначальвалі камсам. работу адначасова ў некалькіх раёнах. Яны стваралі і кіравалі дзейнасцю *гарадскіх падпольных камітэтаў ЛКСМБ*, тэрытарыяльнага камсамольска-маладзёжнага падполля, пярвічных камсам. арг-цый у партыз. фарміраваннях, праводзілі паліт. і арганізатарскую работу сярод моладзі, падымалі яе на барацьбу супраць акупантаў. Адначасова дапамагалі абкомам ЛКСМБ падбіраць і рыхтаваць кадры для падп. гаркомаў і райкомаў камсамола ў зонах сваёй дзейнасці.

Працавала 6 міжрайкомаў ЛКСМБ: Бабруйскі, Барысаўскі, Жлобінскі, Мінскі, Навагрудскі і Слуцкі (гл. адпаведныя артыкулы). Пасля завяршэння камплектавання сеткі падп. гаркомаў і райкомаў ЛКСМБ, іх арганізацыйнага ўмацавання, міжраённыя к-ты ЛКСМБ скасаваны. *Р. М. Шавяла.*

**МІЖРАЁННЫЯ ПАДПОЛЬНЫЯ ПАРТЫЙНЫЯ ЦЭНТРЫ**, міжрайпартцэнтры, кіруючыя парт. органы на акупіраванай ням.-фаш. захопнікамі тэр. Баранавіцкай і частцы Мінскай абл. у 1942—43. Ствараліся і працавалі пад кіраўніцтвам *Цэнтральнага Камітэта КП(б)Б* і *абласных падпольных камітэтаў КП(б)Б.*

У сувязі з няхваткай парт. кадраў гар. і раённага звёнаў вялі работу адначасова ў некалькіх замацаваных за імі раёнах. Выконвалі тыя ж задачы, што і *міжраённыя падпольныя камітэты КП(б)Б*. У Баранавіцкай вобл. таксама ажыццяўлялі парт. кіраўніцтва *антыфашысцкімі арганізацыямі.*

Усяго было створана 6 міжрайпартцэнтраў: Івянецкі, Лідскі, Слонімскі, Стаўбцоўскі, Шчучынскі ў Баранавіцкай і Барысаўскі ў Мінскай абл. (гл. адпаведныя артыкулы). Пасля стварэння і ўмацавання *раённых падпольных камітэтаў КП(б)Б* міжрайпартцэнтры ліквідаваны. *А. А. Каваленя.*

**МІЖРАЁННЫЯ ПАДПОЛЬНЫЯ ЦЭНТРЫ ЛКСМБ**, міжрайцэнтры ЛКСМБ, кіруючыя камсам. органы ў 1943 на акупіраванай ням.-фаш. захопнікамі тэр. Баранавіцкай вобл. Створаны *Баранавіцкім падпольным абкомам ЛКСМБ* у сувязі з недахопам кіруючых камсам. кадраў гар. і раённых звёнаў для работы ў тыле праціўніка. Дзейнічалі пад кіраўніцтвам падп. абкома камсамола і адпаведных міжраённых падп. цэнтраў КП(б)Б.

Узначальвалі тэрытарыяльнае камсам.-маладзёжнае падполле, пярвічныя камсам. арг-цыі ў партыз. фарміраваннях, вялі палітычную і арганізатарскую работу сярод моладзі, падымалі яе на барацьбу супраць акупантаў на тэр. зоны сваёй дзейнасці. Дапамагалі абкому камсамола падбіраць і рыхтаваць кадры для падп. гаркомаў і райкомаў ЛКСМБ.

Дзейнічалі 5 міжрайцэнтраў ЛКСМБ: Івянецкі, Лідскі, Слонімскі, Стаўбцоўскі і Шчучынскі (гл. адпаведныя артыкулы). Са стварэннем гар. і раённых к-таў камсамола і з іх арганізацыйным умацаваннем міжрайцэнтры былі скасаваны. Іх кіраўнікі да ліп. 1944 працавалі ўпаўнаважанымі Баранавіцкага падп. абкома камсамола па тых жа зонах. *Р. М. Шавяла.*

**МІКАЛАЕВІЦКАЕ КАМСАМОЛЬСКА-МАЛАДЗЁЖНАЕ ПАДПОЛЛЕ.** Дзейнічала з 28.6.1941 да 13.6.1942 у в. Мікалаевічы Смалявіцкага р-на. Налічвала 14 чал. Кіраўнік Я. Я. Васіленка.

Падпольшчыкі праводзілі паліт. агітацыю сярод насельніцтва, распаўсюджвалі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, арганізоўвалі сабатаж мерапрыемстваў акупантаў, здабывалі зброю. У жн. 1941 двойчы разбурылі чыгунку на ўчастку Слабада — Смалявічы. Я. Я. Васіленка, Дз. Ф. Пашукевіч, М. П. Яўменчык падарвалі чыгунку на ўчастку Загор'е — Смалявічы. У в. Станок-Вадзіца падпольшчыкі спалілі ток з зернем, нарабаваным акупантамі. Восенню 1941 наладзілі сувязь з партызанамі, арганізавалі з імі ўцёкі ваеннапалонных. У чэрв. 1942 пайшлі ў партызаны.



Мемарыяльны комплекс у гонар савецкіх воінаў-вызваліцеляў, партызан і падпольшчыкаў Віцебшчыны.

У барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў загінулі Ф. Васіленка, А. Папковіч, Дз. Ф. Пашукевіч, Г. Х. Халапенкава, М. П. Яўменчык.
*Ю. А. Капіца.*

**МІКУ́ЛЬСКІ** Сямён Пятровіч (15.9. 1896, в.Ківачына Пружанскага р-на — 8.5.1964), ген.-лейтэнант (1944). Чл. КПСС з 1919. У арміі з 1915, у Чырв. Арміі з 1918. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1929), аператыўны факультэт гэтай акадэміі (1934), Ваен. акадэмію Генштаба (1948). Удзельнік грамадз. і сав.-фінл. 1939—40 войнаў. У Айч. вайну на Ленінградскім, Волхаўскім, Карэльскім, 3-м Прыбалт. і 2-м Бел. франтах: камандзір дывізіі, нач. штаба, нам. камандуючага арміяй і камандуючага войскамі Волхаўскай аператыўнай групы, камандзір корпуса, камендант Гданьска. У 1946—55 выкладчык Ваен. акадэміі Генштаба.

**МІЛАВІ́ДАЎ** Ігар Мікалаевіч (н. 18.4. 1910, в. Падгароддзе, Верхнядзвінскі р-н), ген.-лейт. артылерыі (1966). Чл. КПСС з 1938. У Чырв. Арміі з 1927. Удзельнік баёў каля воз. Хасан у 1938. Скончыў ваен. акадэміі імя Фрунзе (1941) і Генштаба (1952). У Айч. вайну на Зах., Волхаўскім, 1-м і 2-м Укр. франтах: нач. штаба арт. дывізіі, камандзір арт. палка, камандуючы артылерыяй дывізіі. Удзельнік Корсунь-Шаўчэнкаўскай, Уманскай, Яска-Кішынёўскай, Будапешцкай і Венскай аперацый. Да 1969 на камандных пасадах у Сав. Арміі.

**МІЛЮ́ЦІН** Андрэй Сцяпанавіч (15.2. 1924, в. Царковішча Шклоўскага р-на — 12.7.1985), Герой Сав. Саюза (1946). Чл. КПСС з 1944. На фронце з 1943, камандзір кулямётнага ўзвода зенітнага арт. палка ст. сяржант М. вызначыўся ў баях на вуліцах Будапешта, дзе ў снеж. 1944— студз. 1945 узвод М. знішчыў бронетранспарцёр, 20 агнявых і 12 назіральных пунктаў, 3 аўтамашыны, каля 350 гітлераўцаў, адбіў 3 контратакі. Пасля вайны да 1961 на сав. і гасп. рабоце.

**МІНА́ЙЛАЎ** Васіль Аляксандравіч (12.2.1909, с. Нікольнікава Рыльскага р-на Курскай вобл.—24.11.1986), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Гомельскай вобл. Чл. КПСС з 1939. У Чырв. Арміі з 1931. З чэрв. 1941 на фронце. У партызанах з жн. 1942: нам. камандзіра, камандзір узвода, роты, нач. штаба, з крас. 1943 камандзір атрада, у ліст. 1943—чэрв. 1944 камандзір *партызанскага палка 255-га*, адначасова чл. Рагачоўскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—69 на сав. і адм.-гасп. рабоце ў Рагачоўскім р-не.

С. П. Мікульскі. А. С. Мілюцін. А. А. Мінін. Я. К. Мінін. Ф. А. Мінкевіч. Я. Л. Мінкін.



**МІ́НІН** Аляксандр Аляксандравіч (н. 28.8.1924, в. Арлея Полацкага р-на), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1947. Скончыў ВПШ пры ЦК КПСС (1963). У 1942—43 разведчык 3-й Бел. партыз. брыгады, з ліст. 1943 на фронце, разведчык, камандзір аддзялення разведкі. Вызначыўся ў *Беларускай аперацыі 1944*. З 26.6.1944 у складзе гал. дазору праследаваў ворага. 14.7.1944 каля шашы Гродна — Друскінінкай зайшоў у тыл праціўніка, разведаў яго сілы на левым беразе Нёмана, агнявыя кропкі, выявіў месца для пераправы; першы з 2 разведчыкамі фарсіраваў Нёман, узарваў 6 кулямётных гнёздаў праціўніка, стварыў умовы для пераправы палка. За час Бел. аперацыі захапіў 29 «языкоў». З 1948 на парт. і прафс. рабоце ў Магілёве.

**МІ́НІН** Якаў Кірэевіч (22.4.1922, в. Шарсцін Веткаўскага р-на — 15.6. 1985), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1954. Скончыў Тамбоўскую лётную школу (1942), школу вышэйшай лётнай падрыхтоўкі (1945, 1960). З 1942 на Паўн.-Зах., Калінінскім, Варонежскім, Сцяпным, 2-м Укр. франтах. Лётчык-штурмавік лейт. М. зрабіў 104 баявыя вылеты, удзельнічаў у 19 паветр. баях, знішчыў 29 танкаў, 8 зенітных арт. батарэй, 12 зенітных гармат, 9 дзотаў, 58 аўтамашын, асабіста збіў 3, у групе — 4 самалёты. У 1946—78 у Грамадз. паветр. флоце. У 1960 у складзе экіпажа самалёта ТУ-104 Е устанавіў 6 сусветных рэкордаў.

**МІНКЕ́ВІЧ** Франц Адольфавіч (1.8. 1904, Мінск — 17.1.1988), Герой Сав. Саюза (1942). Чл. КПСС з 1932. У Чырв. Арміі з 1924. Скончыў Маскоўскую арт. школу (1930), Харкаўскую школу марскіх лётчыкаў-назіральнікаў (1933). На фронце з 1941. Штурман далёкабамбардзіровачнага авіяпалка маёр М. зрабіў 97 баявых вылетаў на бамбардзіроўку ваенна-прамысловых аб'ектаў, для дэсантавання парашутыстаў у тыле ворага. З студз. 1942 як вядучы групы бамбардзіроўшчыкаў удзельнічаў у налётах на Берлін. У маі 1942 група бамбардзіроўшчыкаў пад яго камандаваннем бамбіла ваен. аб'екты і чыг. станцыі ў акупіраваным ворагам Мінску. Да 1947 у Сав. Арміі, палкоўнік. Да 1962 на гасп. рабоце.

**МІ́НКІН** Яфім Львовіч (н. 22.1.1922, Магілёў), поўны кавалер ордэна Славы. Доктар геолага-мінералагічных навук (1968). Чл. КПСС з 1944. Скончыў Маскоўскі геолагаразведачны ін-т (1950). З ліст. 1942 на Сталінградскім, Зах., 1-м, 2-м Укр. франтах. Разведчык яфрэйтар М. вызначыўся: 12.9.1944 у Трансільваніі ў час разведкі захапіў палоннага, які паведаміў каштоўныя звесткі; 17.12. 1944 у Венгрыі з групай разведчыкаў з боем прайшоў абарону праціўніка, у варожым тыле злучыўся з партыз. атрадам французаў, якія ўцяклі з палону, і вывеў іх да сав. войск; 3.4.1945 каля г. Бадэн (Аўстрыя) у варожым тыле ўступіў у бой з разлікам батарэі з 4 шасціствольных мінамётаў і знішчыў іх. Працуе ў Маскве ў Ін-це водных праблем АН СССР.

**МІНО́ВІЧ** Антон Цімафеевіч (22.7. 1905, в. Чарэя Чашніцкага р-на — 15.2.1966), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1925. Скончыў Камуніст. ун-т Беларусі імя Леніна (1931). З 1924 на камсам., парт., культурна-асветнай і пед. рабоце. У 1941—42 у Чырв. Арміі. У партызанах з ліп. 1942: палітрук роты, камісар атрада, у вер. 1943 — чэрв. 1944 камісар *партызанскай брыгады 95-й імя М. В. Фрунзе*, адначасова чл. Грэскага падп. РК КП(б)Б. З 1944 на парт. рабоце.

**МІНСК**, горад-герой, сталіца БССР, цэнтр Мінскай вобл., на р. Свіслач — прытоку Бярэзіны. Палітычны, экана-

мічны, навуковы і культурны цэнтр рэспублікі. Буйны транспартны (чыгуначных і аўтамаб. дарог) вузел СССР, галоўны рэспублікі і вобласці. Аэрапорты: Мінск-1, Мінск-2. Падзяляецца на 9 адміністрацыйных раёнаў. На пач. 1941 у М. было 270,4 тыс. жыхароў. З пачаткам вайны горад апынуўся на напрамку гал. ўдару ням.-фаш. групы армій «Цэнтр», перад якой, паводле плана *«Барбароса»*, стаяла задача сіламі 2 ударных груповак з ПнЗ (3-я танк група і частка сіл 9-й палявой арміі) і ПдЗ (2-я танк. група і частка сіл 4-й палявой арміі) імкліва наступаць па збежных напрамках на М., каб акружыць і знішчыць сав. войскі паміж Беластокам і М. Парт. і сав. органы разам з ваен. камандаваннем узначалілі мабілізацыю сіл і сродкаў на абарону горада. 22.6.1941 адбыўся сход гарадскога партыйнага актыву, на якім «Аб задачах партыйных арганізацый у сувязі з пачаткам вайны» выступіў 1-ы сакратар ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнка; намечаны мерапрыемствы па перабудове работы парт., сав., гасп., грамадскіх і інш. арганізацый у адпаведнасці з патрабаваннямі ваеннага часу. Было ўведзена ваеннае становішча. У выніку бамбардзіровак варожай авіяцыяй, асабліва масіраванай 24 чэрв., горад быў разбураны (цэнтр амаль поўнасцю), выведзены са строю водаправод, электрасетка, пашкоджаны пад'язныя пуці чыг. вузла, знішчана частка рухомага саставу, усюды ўзніклі пажары. У складаных умовах 24 чэрв. ўдалося эвакуіраваць на ўсход краіны больш за 10 чыг. саставаў, у асн. з насельніцтвам, а таксама дакументы і некаторыя матэрыяльныя каштоўнасці, у т. л. абсталяванне авіязавода, які будаваўся. Райваенкаматы М. з 23 да 28 чэрв. праводзілі мабілізацыю ў Чырвоную Армію. З М. за 4 дні было прызвана каля 27 тыс. чалавек, часцям Чырв. Арміі перададзена больш за 700 аўтамашын і трактароў, каля 20 тыс. абозных коней, інш. мабілізацыйныя рэсурсы. З ліку прызваных сфарміраваны 1-ы Мінскі запасны полк (10 тыс. чал.), якім папоўнілі асабовы склад 2-га і 44-га стралк. карпусоў. Знішчальныя атрады і баявыя рабочыя дружыны былі створаны пры Мінскім гаркоме партыі, ва ўсіх раёнах горада — Сталінскім (камандзір Э. С. Сакалоўскі), Варашылаўскім, Кастрычніцкім, у т. л. на чыг. вузле, з-дзе імя Мяснікова, ф-ках «Кастрычнік», імя Куйбышава, амаль на ўсіх прадпрыемствах, ва ўстановах і навучальных установах — атрады самаабароны, пры Мінскім гаркоме ЛКСМБ — 4 сандружыны (120 чал.). 25 чэрв. часці 3-й і 2-й ням. танк. груп прарваліся на бліжэйшыя подступы да М. Баі за горад былі жорсткія. Абаранялі М. воіны 64-й (палк. С. І. Іаўлеў) і 108-й (ген.-маёр А. І. Маўрычаў) стралк. дывізіі 44-га стралк. корпуса, 100-й (ген.-маёр І. М. Русіянаў) і 161-й (палк. А. І. Міхайлаў) стралк. дывізій 2-га стралк. корпуса 13-й арміі (гл. *Мінска абарона 1941*). Разам з воінамі геранчна змагаліся байцы знішчальных атрадаў і рабочых дружын. Да зыходу дня 28.6.1941, выкарыстаўшы велізарную перавагу ў сілах, ням. танкі і мотапяхота ўварваліся ў М. Ням.-фаш. захопнікі ўстанавілі ў горадзе жорсткі акупацыйны рэжым. У М. размяшчаліся штаб корпуса па ахове тылу групы армій «Цэнтр», розныя ваен. арг цыі і часці тылу, аддзел ваен. разведкі і контрразведкі «Абвер», упраўленне паліцыі бяспекі і СД, штаб па барацьбе з партыз. рухам, часці СС, жандармерыя, ахоўная паліцыя, гал. палявая камендатура, ваен. камендатура, ваен. гарнізон, які налічваў каля 5 тыс. салдат і афіцэраў, пастаянна знаходзіліся войскі (часам да 50 тыс.), што адпраўляліся на фронт або прыбывалі адтуль; у горадзе асталяваліся генеральны камісарыят Беларусі — вышэйшы орган цывільнай акупацыйнай адміністрацыі, мінскі гар. камісарыят, гар. ўправа і інш. Ням.-фаш. акупанты стварылі ў М. і наваколлі 9 лагераў смерці з аддзяленнямі і філіяламі. У пач. ліп. 1941 у лагеры каля в. Драздьі разам з ваеннапалоннымі яны зняволілі мужчынскае насельніцтва М. (усяго каля 140 тыс. чал.) ва ўзросце ад 15 да 60 гадоў. Гітлераўцы знішчылі ў лагеры па вул. Шырокай каля 20 тыс. чалавек, у *Трасцянецкім лагеры смерці* — 206,5 тыс., у *Масюкоўшчынскім лагеры смерці* — каля 80 тыс. чалавек; яны стварылі ў раёне вул. Нямігі, Апанскага і інш. прылеглых да іх вуліц яўрэйскае гета. Усяго за час акупацыі гітлераўцы знішчылі ў горадзе і наваколлі больш за 400 тыс. чалавек, у т. л. больш за 70 тыс. мінчан. Ням.-фаш. захопнікі разбурылі горад, знішчылі 313 дзярж. і кааператыўных прадпрыемстваў, 78 школ і тэхнікумаў, 80 % будынкаў, разрабавалі бібліятэкі і музеі. Агульныя страты, нанесеныя гаспадарцы горада, склалі 6 млрд. руб. (у цэнах 1941).

Працоўныя М. з першых дзён акупацыі разгарнулі барацьбу супраць ням.-фаш. захопнікаў, ва ўсіх раёнах горада ўзніклі падп. групы і арганізацыі. З чэрв. 1941 дзейнічала *Мінскае партыйнае падполле*, з ліп.— *Мінскае камсамольска-маладзёжнае падполле*, з ліст.— *Мінскі падпольны гарком КП(б)Б*, з вер.— Ваенны савет партызанскага руху, створаны ваеннаслужачымі Чырв. Арміі, якія не выйшлі з акружэння ці ўцяклі з ням. палону. У 1942 працавалі гарадскія падп. райкомы КП(б)Б — Варашылаўскі, Чыгуначны, Сталінскі, Кастрычніцкі, Тэльманаўскі. Дзейнічалі *Мінскі падпольны міжрайком КП(б)Б*, Мінскі сельскі падп. райком КП(б)Б (кастр. 1942—2.7.1944). Пад кіраўніцтвам парт. арганізацый дзейнічалі *Мінскі падпольны міжрайком ЛКСМБ, Мінскі падпольны гарком ЛКСМБ, Мінскі Паўднёвы падпольны гарком ЛКСМБ*, 3 гарадскія падпольныя райкомы камсамола — Варашылаўскі, Кастрычніцкі, Сталінскі. Падпольшчыкі правялі больш як 1500 дыверсій, паводле прыгавору бел. народа знішчылі генеральнага камісара Беларусі В. Кубэ. Барацьба ў горадзе не спынялася, нягледзячы на цяжкія страты падполля ў выніку арыштаў і рэпрэсій, што праводзілі гітлераўцы, асабліва масавых у сак.— крас. і вер.— ліст. 1942, карнай аперацыі *«Чароўная флейта»* ў крас. 1943. На тэр. Мінскай вобл. з ліп. 1941 дзейнічалі Мінскі падпольны абком КП(б)Б і, акрамя тых, што дзейнічалі ў М. і Мінскім р-не, падп. 1 міжрайком, 1 міжрайпартцэнтр, 1 гарком-райком, 19 падп. райкомаў КП(б)Б, пад кіраўніцтвам парт. органаў *Мінскі падпольны абком ЛКСМБ*, падп. 2 міжрайкомы ЛКСМБ, 1 падп. гарком ЛКСМБ, 20 падп. райкомаў ЛКСМБ. Падпольшчыкі М. ўдзельнічалі ў стварэнні партыз. атрадаў, падтрымлівалі сувязь больш чым з 30 партыз. фарміраваннямі. На тэр. вобласці былі створаны *Барысаўска-Бягомльская партызанская зона, Акцябрска-Любанская партызанская зона*, дзейнічалі *Мінскае партызанскае злучэнне, Барысаўска-Бягомльскай зоны партызанскае злучэнне, Слуцкай зоны партызанскае злучэнне*, асобная групоўка партызан Мінскай зоны, у якую ўваходзілі партыз. брыгады М. М. Нікіціна, 1-я Мінская, «За Савецкую Беларусь», імя Шчорса, «Разгром», «Полымя», «Чырвоны сцяг», імя газеты «Праўда», імя Кірава, імя Калініна, а таксама асобныя, што не ўваходзілі ў склад партыз. злучэнняў вобласці, партыз. атрады А. Я. Васілеўскага, М. І. Жукоўскага, М. П. Канстанцінава, «Артур», «Мясцовыя», Слуцкі, І. А. Яраша, І. М. Кузіна (гл. адпаведныя артыкулы). У розны час на тэр. Мінскай вобл. дзейнічалі 45 партыз. брыгад, якія аб'ядноўвалі 213 атрадаў і 54 асобныя атрады; у працэсе вызвалення тэр. вобласці 29.6—4.7.1944 з часцямі Чырв. Арміі злучыліся 37 брыгад (176 атрадаў) і 7 асобных атрадаў агульнай колькасцю больш за 40 тыс. партызан. У падпольных друкарнях М. былі выдадзены лісток *«Вестник Родины»*, падп. газеты *«Патриот Родины»* і *«Звязда»* Створаны ў кастр. 1943 Мінскі падп. гарком КП(б)Б, які базіраваўся ў партыз. зоне, выдаваў газету *«Минский большевик»*, зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі. Горад вызвалены 3.7.1944 воінамі 220-й (палк. В. А. Палявік), 352-й (ген.-маёр М. М. Стрыжэнка), 173-й (частка сіл, палк. М. І. Зайцаў) стралк. дывізій, 926-га самаходнага арт. палка (падпалк.

А. М. Хухрын) 36-га стралк. корпуса, 25-й (палк. Д. Я. Клінфельд), 26-й (палк. С. К. Несцераў), 4-й (палк. А. А. Лосік) гвардз. танк. брыгад, 4-й гвардз. мотастралковай брыгады (падпалк. М. С. Анціпін), 401-га гвардз. (маёр Ю. М. Сцяпанаў), 1500-га (маёр Ц. П. Зотаў) самаходных арт. палкоў 2-га гвардз. танк. корпуса 31-й арміі, 3-й (падпалк. К. А. Грыцэнка), 18-й (падпалк. В. І. Есіпенка), 19-й (падпалк. Г. А. Пахадзееў) гвардз. танк. брыгад, 2-й гвардз. мотастралк. брыгады (палк. Дз. Н. Даўганаў), 1436-га (падпалк. Р. С. Нямковіч), 1496-га (маёр М. С. Барзэнкаў) самаходных арт. палкоў 3-га гвардз. танк. корпуса 5-й гвардз. танк. арміі, частак сіл 1-й гвардз. штурмавой (палк. С. Дз. Пруткоў), 4-й гвардз. знішчальнай (палк. У. А. Кітаеў) авіяц. дывізій 1-га гвардз. знішчальнага авіяцыйнага корпуса, 240-й знішчальнай (палк. Г. А. Зімін), 334-й бамбардзіровачнай (палк. І. П. Скок) авіяц. дывізій 1-й паветр. арміі 3-га Бел. фронту, часткай сіл 110-й (палк. С. М. Тарасаў), 385-й (палк. М. Ф. Супруноў) стралк. дывізій 38-га стралк. корпуса 50-й арміі 2-га Бел. фронту, 348-й стралк. дывізіі (ген.-маёр М. А. Нікіцін) 35-га стралк. корпуса, 15-й (палк. К. Г. Кажанаў), 16-й (палк. П. А. Лімарэнка), 17-й (палк. Б. У. Шульгін) гвардз. танк. брыгад, 1-й гвардз. мотастралк. брыгады (ген.-маёр Г. М. Філіпаў) 1-га гвардз. танк. корпуса 3-й арміі 1-га Бел. фронту, авіяцыі далёкага дзеяння — часткай сіл 1-й (палк. І. Ф. Балашоў) і 6-й (палк. С. І. Чамаданаў) гвардз. авіяц. дывізій 1-га гвардз. авіяц. корпуса, часткай сіл 2-й (ген.-маёр А. І. Шчарбакоў) і 8-й (палк. В. Г. Ціханаў) гвардз. авіяц. дывізій 2-га гвардз. авіяц. корпуса ў ходзе *Мінскай аперацыі 1944*. На У ад горада былі акружаны і трапілі ў *мінскі «кацёл»* 105 тыс. салдат і афіцэраў 4-й і 9-й ням. армій. Вял. дапамогу войскам у вызваленні М. і ліквідацыі акружанай групоўкі аказалі партызаны. 53 вайсковым фарміраванням нададзена ганаровае найменне «Мінскіх» (гл. *Мінскія вайсковыя злучэнні і часці).* У гонар вызвалення М. ад акупантаў 16.7.1944 у горадзе адбыўся мітынг працоўных і партызан з удзелам дэлегацыі Чырв. Арміі на чале з команд. 3-м Бел. фронтам І. Д. Чарняхоўскім і дэлегацыі працоўных г. Горкага і *партызанскі парад 1944.* Указам Прэзідыума Вярх. Савета СССР ад 3.12.1966 за мужнасць і гераізм, самаадданую партызз. барацьбу працоўных горада ў Вял. Айч. вайне і за поспехі, дасягнутыя ў аднаўленні горада і развіцці нар. гаспадаркі, М. узнагароджаны ордэнам Леніна. Указам Прэзідыума Вярх. Савета СССР ад 26.6.1974 за выдатныя заслугі, мужнасць і гераізм, што праявілі працоўныя горада ў барацьбе супраць гітлераўскіх акупантаў, вялікую ролю ў развіцці ўсенароднага партыз. руху на Беларусі ў гады Вял. Айч. вайны і ў азнаменаванне 30-годдзя вызвалення Беларускай ССР ад ням.-фаш. захопнікаў, М. прысвоена ганаровае званне «Горад-герой» з уручэннем ордэна Леніна і медаля «Залатая Зорка». У М. на Вайсковых могілках 42 брацкія магілы і больш за 500 адзінкавых магіл сав. воінаў і партызан, магілы ахвяр фашызму ў парку імя Чэлюскінцаў, на бульвары Талбухіна, на 9-м км Маскоўскай шашы, на месцы былых Трасцянецкага і Масюкоўшчынскага лагераў смерці, на іх пастаўлены помнікі; устаноўлены манумент Перамогі, помнік-танк у гонар воінаў 4-й гвардз. танк. брыгады 2-га гвардз. танк. корпуса, якія першыя ўвайшлі ў горад у час вызвалення, мемарыял *«Мінск — горад-герой»*, помнікі сав. воінам, Героям Сав. Саюза М. Ф. Гастэлу і У. А. Хамчаноўскаму, падпольшчыкам Г. А. і Б. А. Еўдакімавым, Т. А. Галабурда, У. І. і К. І. Сянько, А. А. і М. П. Чыжэўскім і Н. П. Майсеевай, піянерцы-падпольшчыцы Л. Н. Герасіменка, Герою Сав. Саюза піянеру-партызану М. І. Казею, на месцы гібелі чл. Мінскага падп. гаркома КП(б)Б У. С. Амельянюка, на месцы пакарання смерцю членаў Мінскага парт. падполля, студэнтам і выкладчыкам БДУ, БПІ, пединстытута, сувязістам, паліграфістам, якія загінулі ў час Вял. Айч. вайны, на 18-м км шашы Мінск — Масква насыпаны *Курган Славы Савецкай Арміі — вызваліцельніцы Беларусі;* устаноўлены мемарыяльныя знакі на месцы дамоў, дзе былі надрукаваны 2-і і 3-і нумары падп. газ. «Звязда», лістоўка «Да насельніцтва Беларусі», мемарыяльныя дошкі на будынках, дзе праходзілі пасяджэнні Мінскага падп. гаркома КП(б)Б, быў набраны і надрукаваны 1-ы нумар газ. «Звязда», знаходзіліся радыёстанцыя, канспіратыўныя кватэры, на будынках прадпрыемстваў і ўстаноў, дзе дзейнічалі падп. арганізацыі і групы партыйнага і камсамольска-маладзёжнага падполля, падпольшчыкам Я. У. Клумаву, М. П. і М. М. Воранавым, М. П. Дразду, М. А. Кедышку, арганізатарам і кіраўнікам парт. падполля і партыз. руху на Беларусі І. П. Кожару, В. І. Казлову, П. М. Машэраву, П. К. Панамарэнку, С. В. Прытыцкаму, Ф. А. Сурганаву і інш., ням. антыфашысту Герою Сав. Саюза Ф. Шменкелю; імёнамі Герояў Сав. Саюза, воінаў, партызан, падпольшчыкаў названы вуліцы М. Працуюць *Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, Музей гісторыі войск Беларускай ваеннай акругі, Дзяржаўны музей Беларускай ССР.* *В. С. Паваліхіна.*

**«МІНСК — ГО́РАД-ГЕРО́Й»,** архітэктурна-скульптурны комплекс у Мінску. Адкрыты 8.5.1985 на праспекце Машэрава, на пагорку непадалёку ад парку Перамогі. Аўтары — скульптар-арх. В. Занковіч, арх. В. Крамарэнка, У. Раманенка, В. Яўсееў. Кампазіцыйны акцэнт — абеліск (выш. 45 м), на грані якога ў верхняй частцы выявы Зоркі і лаўровай галінкі з пазалочанай сталі, уніз на выступе-блоку металічная дошка з тэкстам Указа Прэзідыума ВС СССР ад 26.6.1974 аб прысваенні Мінску ганаровага звання «Горад-герой» за выдатныя заслугі перад Радзімай, мужнасць і гераізм, праяўленыя працоўнымі горада ў барацьбе супраць гітлераўскіх акупантаў, вял. ролю ў разгортванні ўсенар. партыз. руху на Беларусі ў гады Вял. Айч. вайны і ў азнаменаванне 30-годдзя вызвалення БССР ад ням.-фаш. захопнікаў. Справа ад абеліска на невысокім пастаменце бронзавая фігура жанчыны (выш. 5,5 м), якая сімвалізуе Перамогу. Комплекс размешчаны на агляднай пляцоўцы, ад якой вядуць 3 лесвічныя бетонныя сходні.

**МІ́НСКА АБАРО́НА 1941.** Вялася 25—28 чэрв. войскамі 44-га (камдыў



Архітэктурна-скульптурны комплекс «Мінск — горад-герой».

В. А. Юшкевіч, 64-я і 108-я стралк. дывізіі) і 2-га (ген.-маёр А. М. Ермакоў, 100-я і 161-я стралк. дывізіі) стралк. карпусоў 13-й арміі (ген.-лейт. П. М. Філатаў) Зах. фронту

Паводле рашэння ваен. савета Зах. фронту ад 24.6.1941 абарона горада была ўскладзена на войскі 44-га стралк. корпуса. На З ад Мінска абарончы рубеж праходзіў у палосе амаль поўнасцю разукамплектаваных абарончых збудаванняў Мінскага ўмацаванага раёна па лініі Стайкі — Заслаўе — Краснае — Дзяржынск — Кукшэвічы. На правым флангу ўчастак працягласцю каля 50 км займала 64-я стралк. дывізія (палк. С. І. Іаўлеў) з 49-м карпусным артпалком (палк. А. В. Мельнікаў), на левым флангу каля 40 км — 108-я стралк. дывізія (ген.-маёр А. І. Маўрычаў). У падначаленні камандавання 44-га стралк. корпуса былі таксама 100-я стралк. дывізія (ген.-маёр І. М. Русіянаў), якая выконвала ў першыя дні вайны спецзаданне штаба Зах. фронту па ахове Мінска, і 161-я стралк. дывізія (палк. А. І. Міхайлаў), што знаходзілася ў рэзерве. З Пд стык паміж Слуцкім і Мінскім умацаванымі раёнамі даручалася прыкрыць 20-му механіз. корпусу (ген.-маёр А. Г. Нікіцін). Паводле рашэння ваен. савета Зах. фронту штабу 2-га стралк. корпуса, упраўленне якога прыбыло ў Мінск, 25 чэрв. падначалена 100-я стралк. дывізія, 26 чэрв.— 161-я стралк. дывізія. Яны атрымалі загад прыкрыць подступы да Мінска з Пн. Раніцай 26 чэрв. ў раён чыг. ст. Ждановічы з раёна Маладзечна выйшаў штаб 13-й арміі. Камандуючы арміяй ген.-лейт. Філатаў 27 чэрв. падпарадкаваў сабе 44-ы і 2-і стралк. карпусы і падраздзяленні Мінскага ўмацаванага раёна (камендант С. Ф. Лялькоў). Парт. і сав. органы праводзілі вял. работу па мабілізацыі сіл на абарону горада. Яны аказвалі дапамогу ваенкаматам горада і вобласці ў мабілізацыі і накіраванні ў вайсковыя часці ваеннаабавязаных радавога і каманднa-палітычнага складу. За лік мабілізаваных папоўніўся колькасны склад 44-га і 2-га стралк. карпусоў (асабовы склад 100-й стралк. дывізіі даведзены да 16 тыс. чал.). Створаныя паводле рашэння парт. і сав. органаў добраахвотныя знішчальныя атрады з рабочых, служачых, студэнтаў ахоўвалі прадпрыемствы, транспарт, вузлы і сродкі сувязі, масты, склады і інш. аб'екты, дапамагалі эвакуіраваць насельніцтва,абсталяванне прамысловых прадпрыемстваў, інш. матэрыяльныя каштоўнасці.

Тысячы жыхароў Мінска, Мінскага, Дзяржынскага р-наў разам з воінамі будавалі вакол горада абарончыя рубяжы, рамантавалі ўзлётную палосу аэрадрома, ліквідоўвалі завалы, аказвалі дапамогу пацярпелым ад бамбардзіровак, вялі барацьбу з варожымі дэсантнікамі, удзельнічалі ў баях на подступах да сталіцы рэспублікі. 25.6.1941 пачаліся баі ў Мінскім умацаваным раёне на ўчастку Рогава — Заслаўе — Краснае, які абаранялі 30-ы (палк. А. І. Яфрэмаў) і 159-ы (падпалк. А. І. Бялоў) стралк. палкі 64-й стралк. дывізіі. Перадавыя часці ням. 3-й танк. групы (ген. Гот), што наступалі на гэтым напрамку, былі затрыманы, адбіты атакі, якія вёў праціўнік на працягу дня, асабліва вызначыліся ў баях артылерысты 163-га лёгкага (капітан Малхоў), 219-га гаўбічнага (падпалк. М. П. Карукалаў), 49-га карпуснога палкоў і 170-га (капітан Я. А. Катляроў) асобнага знішчальна-процітанк. дывізіёна, дота № 6 Мінскага ўмацаванага раёна (малодшыя лейтэнанты Рошчын і Петрачук), якія прамой наводкай падпальвалі варожыя танкі. Да зыходу дня зводны атрад разведчыкаў 64-й і 108-й стралк. дывізій (маёр Я. В. Чумакоў, ст. палітрук Я. Е. Ганцоў) у лесе каля в. Шалухі на З ад Радашковіч разграмілі аператыўную групу штаба ням. 39-га механіз. корпуса, быў забіты генерал, захоплены каштоўныя асабліва сакрэтныя аператыўныя дакументы — планы групы армій «Цэнтр», палонныя. На досвітку 26 чэрв. пазіцыі 44-га стралк. корпуса падвергліся масіраванаму бомбаваму і магутнаму арт. ўдарам. Услед за гэтым на падраздзяленні 64-й дывізіі рушылі танк. часці, якія былі сустрэты арт. агнём, супраць танкаў выкарыстаны бутэлькі з бензінам і звязкі гранат. Праціўнік і на гэты раз не прайшоў праз пазіцыі дывізіі. Асаблівы гераізм праявілі воіны 1-га (капітан Д. М. Новікаў) і 2-га (капітан Я. А. Пракапышка) батальёнаў 30-га стралк. палка ў раёне вёсак Рогава, Жукі, Ломшына, Агаркі. У той жа дзень 26 чэрв. ў раёне Дзяржынска ўступілі ў бой супраць ням. перадавых часцей 2-й танк. групы (ген. Гудэрыян) уступілі воіны 444-га стралк. палка (палк. І. І. Петухоў) 108-й стралк. дывізіі. У раёне Астрашыцкага Гарадка на досвітку 26 чэрв. праціўнік высадзіў парашутны дэсант, які адшукаў пасадачную пляцоўку для самалётаў. Увесь дзень на яе садзіліся транспартныя самалёты з гарматамі, лёгкімі танкамі, бронемашынамі, пяхотай. Тут, на рубяжы Астрашыцкі Гарадок — Карасі, у другой палавіне дня, перакрыўшы дарогі на Мінск, уступілі ў жорсткія баі з ворагам воіны 100-й і направа ад яе 161-й стралк. дывізій. 27 чэрв. часці 100-й дывізіі пры падтрымцы часцей 161-й стралк. дывізіі перайшлі ў наступленне ў напрамку Беларучаў і адкінулі праціўніка на 13—14 км на ПнЗ. Асабліва напружаныя баі з праціўнікам 26 і 27 чэрв. ішлі ў раёнах Дзяржынска, Старога Сяла, Заслаўя, Ашнарава, Рогава, Мацкаў, Ломшына, Жукі. Многія населеныя пункты па некалькі разоў пераходзілі з рук у рукі (Ломшына, Заслаўе, Ашнарава і інш.). 27 чэрв. каля в. Казекава ў цяжкім баі воіны 30-га стрлк. палка 64-й дывізіі затрымалі прасоўванне танк. часцей праціўніка. Вораг абышоў гэты ачаг супраціўлення, да вечара ням. танкі з Пн прарваліся да Астрашыцкага Гарадка, дзе злучыліся з дэсантнікамі.

У ходзе баёў пад Мінскам ням. генералы Гудэрыян і Гот страцілі толькі спаленымі больш за 100 танкаў і больш за 200 падбітымі, шмат інш. баявой тэхнікі, сотні салдат і афіцэраў забітымі. Бессмяротныя подзвігі здзейснілі 26.7.1941 у раёне Радашковіч экіпажы сав. бамбардзіроўшчыкаў капітана М. Ф. Гастэлы (А. А. Бурдзянюк, Р. М. Скарабагаты, А. А. Калінін) і капітана А. С. Маслава (У. М. Балашоў, Б. Бейскбаеў, Р. В. Рэутаў), 27.6.1941 экіпаж ст. лейт. І. З. Прэсайзэна (П. Ф. Анікін, А. В. Баранаў). Яны накіравалі свае падбітыя самалёты на вял. колькасць варожай баявой тэхнікі. Ноччу 28 чэрв. камандзір 2-га стралк. корпуса А. М. Ермакоў, каб не трапіць у акружэнне, аддаў загад часцям корпуса адыходзіць да р. Волма. У другой палавіне дня 28.6.1941, выкарыстаўшы перавагу ў сілах, ням.-фаш. войскі ўварваліся ў Мінск з боку Балотнай станцыі. Абяскроўленыя цяжкімі баямі, адчуваючы вострый недахоп боепрыпасаў, рэшткі 64-й і 108-й стралк. дывізій працягвалі баі пад Мінскам у поўным акружэнні і толькі па загаду камандуючага 3-й арміяй ген.-лейт. В. І. Кузняцова, які выйшаў з групай камандзіраў штаба ў размяшчэнне 108-й стралк. дывізіі, у ноч на 2 ліп. прарвалі кальцо акружэння ў паўд.-ўсх. напрамку. У баях за горад ворагу нанесены значныя страты, зніжана яго ўдарная сіла і тэмп прасоўвання на У. М. а. садзейнічала зрыву гітлераўскага плана «маланкавай вайны». Тром стралк. дывізіям, якія ўдзельнічалі ў М. а., у вер. 1941 нададзены найменні гвардзейскіх — 100-я стала 1-й гвардзейскай, 161-я — 4-й гвардзейскай, 64-я — 7-й гвардзейскай.

*М. М. Акаловіч.*

**МІНСКАЕ КАМСАМО́ЛЬСКА-МАЛАДЗЁЖНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ,** састаўная частка *Мінскага партыйнага падполля.* Дзейнічала з ліп. 1941 да ліп. 1944 у акупіраваным ням.-фаш. захопнікамі горадзе.

З самага пач. акупацыі камсамольцы актыўна ўключыліся ў падп. барацьбу. Яны дзейнічалі як у складзе падп. парт.-камсам. арг-цый і груп, так і ў самастойных камсам. і камсам.-маладзёжных арг-цыях і групах. Летам і восенню 1941 пад кіраўніцтвам камуністаў, з канца 1941 — *Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б* былі створаны падп. камсамольскія арг-цыі і групы, у т. л. «Андруша», вуліц Розы Люксембург і Карла Лібкнехта, на радыёзаводзе, вагонарамонтным імя А. Ф. Мяснікова, гарбарным «Бальшавік», цвіковым з-дах, на Балотнай станцыі (усе гл. ў гэтым артыкуле). Да вер. 1942 арганізатарам і кіраўніком камсам. падполля горада з'яўляўся С. А. *Благаразумаў.* 18.7.1942 ЦК ЛКСМБ быў створаны *Мінскі падпольны міжрайком ЛКСМБ,* які правёў вял. работу па расшырэнню і ўмацаванню М. к.-м. п. У снеж. 1942 міжрайком камсамола стварыў *Мінскі падпольны гарком ЛКСМБ,* які ўзначаліў камсам.-маладзёжнае падполле горада. З чэрв. 1943 гарком працаваў пад кіраўніцтвам *Мінскага падпольнага абкома ЛКСМБ.* Гарком, які дыслацыраваўся ў Заслаўскім р-не, з лют. 1943 да студз. 1944 падтрымліваў сувязь з падп. камсамольскімі арг-цыямі, накіроўваў іх работу праз сваю групу ў складзе М. З. Заляева, М. А. *Кедышкі,* Парамона Я. Кудраўцава, У. П. Трушко, Л. М. Яраша і інш. Пастаяннымі сувязнымі гаркома ЛКСМБ былі С. Д. Бойка, Г. Бажэйка, Д. Бурло, А. Быглейка, П. М. Гойчык, В. А. Дамброўская, А. Дрозд, Н. А. Кедышка, М. П. Кліմовіч, П. П. Кудраўцава, М. Ф. Пятроўская, Л. Ф. Селіванава, П. Сокал, М. Суботка, А. Сярноўскі, Н. Філіповіч-Кудраўцава і інш. Да канца 1943 у горадзе дзейнічалі падп. камсам. групы ў друкарні Дома друку, на з-дзе імя Варашылава, у аўтарамонтных майстэрнях, на чыг. вузле, метэаралагічнай станцыі, млыне

№ 4, шчотачна-вяровачным камбінаце, маслазаводзе і шэрагу інш. прадпрыемстваў. На барацьбу з фаш. захопнікамі моладзь узнімалі патрыёты падп. камсам. і камсам.-маладзёжных арг-цый «Адам», «Віктар», «Крылоў», «Танюша», «Роберт», «Уладзімір» (усе гл. ў гэтым артыкуле), а таксама «Арлінае вока», «Вырві вока» (кіраўнік Г. Д. Сасіна), «Знаеў» (Я. І. Сіткевіч), «Зубілкін» (В. М. Гудовіч), «Стрэлка» (Л. М. Вышынская), «Тамара» (Я. А. Берасневіч), «Таццяна» (К. В. Гурло), «Філолаг» (В. П. Цітоў), «Холкін» (Р. Я. Бруціс), «Холкін» (І. Н. Галай), «Холкін» (Н. Ф. Шманаль) і інш. У студз. 1944 Мінскім падп. гаркомам КП(б)Б зацверджаны *Мінскі Паўднёвы падпольны гарком ЛКСМБ*, які ўзначаліў дзейнасць створаных ім камсам.-маладзёжных арг-цый і груп горада, з сак. да ліп. 1944 пад яго кіраўніцтвам працавалі Варашылаўскі, Кастрычніцкі і Сталінскі падп. райкомы ЛКСМБ г. Мінска. Мінскім і Мінскім Паўд. падп. гаркомамі ЛКСМБ за час іх дзейнасці створана ў горадзе каля 70 падп. арг-цый і груп, якія аб'ядналі больш за 1 тыс. падпольшчыкаў. Іх ядро складала рабочая моладзь. Акрамя падпольшчыкаў, што працавалі пад кіраўніцтвам камсам. падп. органаў, многія камсамольцы групамі і па адзіночцы выконвалі заданні партыз. атрадаў з брыгад, якія дзейнічалі ў Мінскай вобл.: «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Воранянскага, «Штурмавая», «Жалязняк», 12-й кав. імя Сталіна, «За Савецкую Беларусь», 1-й і 2-й Мінскіх, імя Фрунзе, імя Чкалава, імя Шчорса (гл. адпаведныя артыкулы) і інш., а таксама спецатрадаў і груп *Цэнтральнага штаба партызанскага руху, Беларускага штаба партызанскага руху*, Разведупраўлення Чырв. Арміі і інш. Многія канспіратыўныя кватэры Мінскага парт. падполля трымалі камсамольцы: Л. У. Валадзько, А. А. Галавацкі, Л. А. Дамброўскі, М. А. Кедышка, В. В. Міхневіч, М. П. Рынкевіч, Г. Д. Сасіна, Г. Г. Фалевіч і інш. Падпольныя камсам. арг-цыі і групы з'яўляліся вернымі памочнікамі парт. падполля. У надзвычай цяжкіх умовах яны пад кіраўніцтвам гаркомаў партыі і камсамола вялі агітацыю сярод насельніцтва, уцягвалі моладзь у актыўную барацьбу супраць ням.-фаш. акупантаў, сарвалі іх спробы стварыць фаш. маладзёжную арг-цыю «Саюз беларускай моладзі». Рабілі дыверсіі на чыг. вузле, прам. і ваен. аб'ектах праціўніка, здабывалі і перадавалі партызанам звесткі разведкі, зброю і боепрыпасы, медыкаменты, харчы, знішчалі гітлераўцаў і іх прыслужнікаў, ратавалі і выводзілі ў партыз. атрады сав. грамадзян і ваеннапалонных, былі партыз. сувязнымі. Дапамагалі камуністам абсталяваць падп. друкарні, выпускаць і распаўсюджваць газ. *«Звязда»*, лістоўкі і зводкі Саўінфармбюро, вырабляць бланкі ням. дакументаў. Летам 1944 з набліжэннем да Мінска часцей Чырв. Арміі камсамольцы-падпольшчыкі сачылі за мініраваннем гітлераўцамі прамысловых прадпрыемстваў, каштоўнага абсталявання, будынкаў у горадзе. Пры вызваленні Мінска яны вялі ўзброеную барацьбу супраць атрадаў ням.-фаш. факельшчыкаў, якія падпальвалі прадпрыемствы і будынкі, дапамаглі сав. воінам прадухіліць выбухі на многіх важных аб'ектах.

*Р. М. Шавяла.*

**«Адам»** — падпольная камсам. арг-цыя. Створана Мінскім падпольным гаркомам ЛКСМБ у чэрв. 1943 на базе адной з груп падп. камсам. арг-цыі «Андруша». Дзейнічала да ліст. 1943, яе рабо тай кіраваў штаб арг-цыі «Андруша». Аб'ядноўвала 15 чал. Кіраўнікі камсамольцы-рабочыя А. Н. Вялюжын (да 8.11.1943, загінуў), Б. С. Гуліс (ліст. 1943—10.6.1944, загінуў). У рабоце арг-цыі ўдзельнічаў і накіроўваў яе дзейнасць рабочы Мінскай агародніннай базы камуніст С. Т. Гуліс. Падпольшчыкі ўчынілі выбухі і пажары ў 2 казармах гітлераўцаў, спалілі харчовы склад, па начах знішчалі акупантаў на вуліцах горада, прыводзілі ў непрыгоднасць ваен. абмундзіраванне, здабывалі і перадавалі партызанам зброю, боепрыпасы, медыкаменты, вялі разведку ў Мінску, распаўсюджвалі лістоўкі, газеты, прымалі ўдзел у мініраванні чыг. цыстэрнаў з гаручым, у арганізацыі ўцёкаў сав. людзей з канцлагераў. Падпольшчыкі ажыццяўлялі сувязь Мінскага падп. гаркома ЛКСМБ з работнікамі Мінскага падпольнага абкома ЛКСМБ, якія знаходзіліся ў Барысаўска-Бягомльскай партызанскай зоне.

*Р. М. Шавяла.*

**«Андруша»** — падпольная камсам. арг-цыя. Дзейнічала з канца 1941 да ліст. 1943 пад кіраўніцтвам Мінскіх падп. гаркомаў КП(б)Б і ЛКСМБ. Аб'ядноўвала больш як 60 рабочых, б. ваеннаслужачых, студэнтаў, вучняў. У штаб уваходзілі Мікалай Аляксандравіч Кедышка (кіраўнік), Л. У. Валадзько, А. А. Галавацкі, Л. А. Дамброўскі, В. В. Міхневіч, П. П. Сіроцін, А. Л. Тарлецкі, Л. М. Яраш. У яе рабоце ўдзельнічаў і накіроўваў дзейнасць падпольшчыкаў рабочы мінскай агародніннай базы камуніст С. Т. Гуліс. У пач. 1943 штаб устанавіў сувязь з *Мінскім падпольным гаркомам ЛКСМБ* і *партызанскай брыгадай «Штурмавая»*. Праз сувязных В. А. Дамброўскую («Влада»), Надзею Аляксандраўну Кедышка, М. П. Клімовіч, П. Я. Кудраўцаву штаб атрымліваў заданні, перадаваў партызанам разведданыя, зброю, медыкаменты, адзенне, абутак. Падпольшчыкі правялі 40 дыверсій, мініравалі чыг. саставы, прыводзілі ў непрыгоднасць генератары гар. электрастанцыі № 1, на 3 месяцы вывелі са строю хлебазавод «Аўтамат», здабылі і перадалі гаркому камсамола друкарскі шрыфт, фарбы, распаўсюджвалі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, вызвалялі сав. людзей з турмаў і канцлагераў, перапраўлялі да партызан больш як 80 чал., знішчылі больш за 50 гітлераўцаў. Арганізацыя мела 10 канспіратыўных кватэр. У тайніках некаторых з іх захоўваліся зброя і боепрыпасы, медыкаменты, радыёпрыёмнікі, пішучыя машынкі. Члены арг-цыі Я. А. Берасневіч, А. Н. Вялюжын, К. В. Гурло, П. Я. Кудраўцава, Г. А. Марчанка, В. В. Міхневіч, У. П. Нядзельцаў сталі кіраўнікамі падп. груп «Адам», «Віктар», «Роберт», «Тамара», «Танюша», «Таццяна», «Уладзімір». У кастр.— ліст. 1943 многія падпольшчыкі загінулі ў барацьбе, найшлі ў партызаны, тыя, хто застаўся, дзейнічалі ў саставе падп. арг-цый «Віктар» і «Уладзімір». М. А. Кедышку прысвоена званне Героя Сав. Саюза. На будынку, дзе была адна з канспіратыўных кватэр арг-цыі, устаноўлена мемар. дошка.

*Р. М. Шавяла.*

**Арганізацыя вуліц Розы Люксембург і Карла Лібкнехта.** Дзейнічала са снеж. 1941 да мая 1943 на ф-ках тытунёвай і «Кастрычнік». Аб'ядноўвала 8 чал. Кіраўнік арг-цыі Ч. Б. Чараповіч. Створана чл. Мінскага падп. гаркома КП(б)Б Г. М. *Сямёнавым* з маладых рабочых і вучняў. Спачатку яе работу накіроўваў Сямёнаў, з сак. да жн. 1942—камуністка Э. Я. Бумбіерэ. У пач. 1942 арг-цыя наладзіла сувязь з партыз. атрадам імя Чкалава — пазней з атрадам імя Шчорса Баранавіцкага партыз. злучэння, якая падтрымлівалася праз В. І. Кодзь, Чараповіча і партыз. сувязных. Камсамольцы Кодзь, Б. І. Кудзіновіч, Л. А. Хентаў, Чараповіч распаўсюджвалі лістоўкі, здабывалі і перадавалі Мінскаму падп. гаркому КП(б)Б для партызан харчаванне, зброю, боепрыпасы, медыкаменты, інструменты, выводзілі з лагераў, хавалі і пераправілі да партызан сав. ваеннапалонных, вялі ў горадзе разведку. На ф-ках тытунёвай і «Кастрычнік» падпольшчыкі выводзілі са строю машыны і абсталяванне, падрыхтавалі, часткова ўзброілі і вывелі з горада да партызан больш за 30 маладых рабочых. Пад пагрозай правалу ў маі 1943 камсамольцы пайшлі ў партыз. атрад імя М. А. Шчорса.

*Р. М. Шавяла.*

**Арганізацыя на цвіковым заводзе.** Дзейнічала са жн. 1941 да ліп. 1943 пад кіраўніцтвам В. Ф. *Мацюшка*, у ліп.— вер. 1942— Варашылаўскага падп. РК КП(б)Б. Створана па ініцыятыве В. Ф. Мацюшка рабочымі з-да камсамольцамі М. Ф. Мацюшкам, У. А. Рудзіным, В. І. Кандрашэвічам. Аб'ядноўвала 10 чал. Сакратары М. Ф. Мацюшка, з ліп. 1942 У. А. Рудзін. Сувязныя з партызанамі — В. І., І. А. Кандрашэвічы, А. С. Рудзін. Явачныя кватэры трымалі М. Р. Кандрашэвіч, С. Л. Мацюшка. М. Рудзіна. Падпольшчыкі збіралі зброю, боепрыпасы, вопратку, абутак, медыкаменты і хавалі іх у падвалах дамоў і дварах Рудзіных і Кандрашэвічаў, пасля ўстанаўлення сувязі з партыз. атрадам «Мсцівец», які дзейнічаў у Лагойскім р-не, перадавалі іх партызанам. У сак. 1942 атрад выдзеліў падпольшчыкам каня з павозкай. Бацька В. Кандрашэвіча Іван Аляксеевіч і бацька У. Рудзіна Аляксей Сцяпанавіч змайстравалі ў павозцы тайнікі. Выконваючы заданні камандавання партыз. атрадаў «Мсцівец» і імя Суворава брыгады «Народныя мсціўцы» Мінскай вобл., «За Радзіму» і «За Савецкую Беларусь» брыгады імя Фрунзе Вілейскай вобл., Рудзіны і Кандрашэвічы перавозілі партызанам зброю, боепрыпасы, амуніцыю, якую атрымлівалі пераважна ад распрапагандаваных салдат 46-га паліцэйскага батальёна. Падпольшчыкі прывозілі ў горад і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі, газеты, перапраўлялі ў партызаны моладзь, сав. ваеннапалонных. На з-дзе падпольшчыкі пашкодзілі некалькі станкоў, вывелі са строю электрашчыт. Западозраны ў дыверсіях, М. Ф. Мацюшка пайшоў у партызаны, загінуў у баі. Пазней пайшоў у партызаны В. Кандрашэвіч з сям'ёй, але ён заставаўся сувязным арг-цыі, у чэрв. 1943 загінуў у Мінску пры выкананні задання. Загінуў у баі і яго брат Яўген, расстраляна гітлераўцамі іх маці Марыя Рыгораўна і васьмігадовы брат Расціслаў. Рудзіны дастаўлялі партызанам скуртавары і медыкаменты, здабытыя падпольшчыкамі гарбарнага завода «Бальшавік». У ліп. 1943 гітлераўцы знайшлі ў іх доме тайнікі са зброяй, патронамі, медыкаментамі. Арыштаваных У. А. Рудзіна, яго бацьку, маці і жонку расстралялі, аднагадовага сына забілі.

*Р. М. Шавяла.*

**«Віктар»** — падпольная камсам. арг-цыя. Створана 15.11.1943 Мінскім падпольным гаркомам ЛКСМБ на аснове адной з груп падп. камсам. арг-цыі «Андруша» і дзейнічала да вызвалення. Аб'ядноўвала 26 чал. Сакратар В. В. Міхневіч (б. член штаба арг-цыі «Андруша»). У яе ўваходзілі таксама члены штаба гэтай арг-цыі Л. У. Валадзько, П. П. Сіроцін, упаўнаважаныя Мінскага падп. гаркома ЛКСМБ В. А. Дамброўская, М. П. Клімовіч і інш. З сак. 1944 падтрымлівала прамую сувязь з Мінскім падпольным гаркомам КП(б)Б і выконвала яго заданні (сувязныя браты Іван і Ігнацій Савіцкія). Мела 4 канспіратыўныя кватэры, якія трымалі Л. У. Валадзько, М. А. Дамброўская, В. В. Міхневіч, К. Я. Нядзельцава. Кіраўніцтва арг-цыяй і сувязь яе з Мінскім падп. гаркомам ЛКСМБ ажыццяўлялася праз інструктара гаркома П. Я. Кудраўцаву, упаўнаважаных В. А. Дамброўскую і Клімовіч, сувязную П. П. Кудраўцаву. Падпольшчыкі вялі ў горадзе разведку, здабывалі і перадавалі гаркому ЛКСМБ зброю, боепрыпасы, медыкаменты, мыла, соль, паперу для партызан, выводзілі з горада сав. грамадзян, якім пагражала небяспека арышту ці вывазу на катаргу ў Германію, арганізоўвалі ўцёкі ваеннапалонных з лагераў, забяспечвалі іх вопраткай, харчаваннем, укрывалі, а затым перапраўлялі ў партыз. атрады. Правялі шэраг дыверсій у Мінску, у т. л. зрабілі непрыгоднымі 400 т мукі і збожжа на ням. складзе, падарвалі мінамі 2 танкі і 2 аўтамашыны. Неаднаразова псавалі прыборы і абсталяванне на метэастанцыі, пад кіраўніцтвам В. В. Міхневіча зрабілі ўзброены налёт на паліцэйскі ўчастак, вызвалілі і вывелі з горада 2 схопленых гітлераўцамі партызан. Група на чале з Валадзько вяла агітацыю сярод салдат славацкай вайсковай часці, у выніку каля 150 славакаў пайшлі да партызан. Члены арг-цыі распаўсюджвалі ў горадзе газеты, лістоўкі і інш. сав. літаратуру, якую атрымлівалі ад парт. і камсам. падп. органаў, друкавалі на машынцы зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі і распаўсюджвалі іх сярод насельніцтва. Напярэдадні вызвалення Мінска па заданню Мінскага падп. гаркома КП(б)Б узброеныя падпольшчыкі арг-цый «Віктар» і «Уладзімір» разагналі спец. каманду гітлераўцаў, якая мела заданне спаліць хлебазавод «Аўтамат», ахоўвалі з-д да падыходу сав. войск. *Р. М. Шавяла.*

**Група на Балотнай станцыі.** Дзейнічала з чэрв. 1941 да ліп. 1944. Аб'ядноўвала 9 чал., у асн. супрацоўнікаў Балотнай станцыі і 2-й сав. бальніцы. Кіраўнік чл. ВЛКСМ Л. Ф. Мацюшка. З першых дзён акупацыі Мінска падпольшчыкі вызвалялі з лагера ваеннапалонных байцоў і камандзіраў Чырв. Арміі і перапраўлялі іх да партызан. Члены групы В. Н. Крупеня і А. М. Жадовіч мелі радыёпрыёмнік, рэгулярна прымалі зводкі Саўінфармбюро, размнажалі іх на пішучай машынцы і распаўсюджвалі сярод супрацоўнікаў Балотнай станцыі, ваеннапалонных. Летам 1942 на станцыі створана падп. камсам. арг-цыя (сакратар Мацюшка). Падпольшчыкі падтрымлівалі сувязь з партыз. атрадам «Мсцівец», які дзейнічаў у Лагойскім р-не. Пад пагрозай правалу ў жн. 1942 падпольшчыкі прынялі рашэнне разгрупавацца. Н. Дз. Малей пераехала ў пас. Міханавічы Мінскага р-на да сваёй сястры Т. Дз. Бурай, яны ўстанавілі сувязь з партыз. атрадам імя Лазо *партызанскай брыгады 3-й Мінскай імя С. М. Будзённага.* Дом Бурай стаў перавалачнай базай *Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б*, адкуль у Мінск дастаўляліся міны і ўзрыўчатка. А. М. і К. К. Жадовічы пераехалі ў в. Александрова Мінскага р-на і стварылі там падп. групу. Мацюшка стала партызанкай атрада «Мсцівец» *партызанскай брыгады «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Воранянскага*, загінула ў баі. Дз. І. Аляхновіч і сёстры Я. П. і Н. П. Ліпніцкія засталіся ў Мінску і выконвалі заданні партыз. брыгады «Народныя мсціўцы» да вызвалення горада. *Р. М. Шавяла.*

**Група на плодаагароднінnай базе № 1.** Дзейнічала са жн. 1941 да вер. 1943. Створана па ініцыятыве М. К. Каржанеўскага. Кіраўнік Я. І. Ярмалінскі. Аб'ядноўвала 5 чал. Падпольшчыкі ўдзельнічалі ў аперацыях па вынасу з базы прадуктаў і солі, ратавалі і перапраўлялі ў партыз. атрады б. ваеннапалонных, здабывалі пісчую і капіравальную паперу, распаўсюджвалі сярод насельніцтва горада падп. газ. «Звязда», інш. выданні падп. гаркома. У вер. 1943 у сувязі з пагрозай арышту члены групы пайшлі ў 18-ю партыз. брыгаду імя Фрунзе. *Л. В. Аржаева.*

**Група на гарбарным заводзе «Бальшавік».** Дзейнічала ў жн. 1941 — ліп. 1944. Аб'ядноўвала 15 чал. Яе работу накіроўвалі камуністы В. Ф. Мацюшка і В. А. Філімонаў, у 1942 — Варашылаўскі РК КП(б)Б г. Мінска. Створана па ініцыятыве камсамольцаў рабочых з-да Я. М. Канапацкага (кіраўнік) і Р. І. Наркевіч. Падпольшчыкі трымалі сувязь з партыз. брыгадамі «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Воранянскага і «Штурмавая» Мінскай вобл. На з-дзе для патрэб ням.-фаш. акупантаў выраблялі скуры. Падпольшчыкі Г. Ф. Аўчынка, В. В. Бялан, Ф. І. Гаеўскі, Канапацкі, В. П. Машкова, Р. Наркевіч, А. М. Паўлава, З. І. Пятровіч-Тарчанка выносілі з з-да скуртавары, хімікаты, соль, мыла, з заводскага медпункта — перавязачныя сродкі, мед. інструменты. Усё вынесенае з дапамогай падпольшчыкаў і сувязных Бялан, А. С. Юркевіч, Ю. А. Ягораву, А. Ф. Аўчынка, хавалі ў тайніках канспіратыўных кватэр, якія трымалі С. Ф. Аўчынка, Бялан, І. Л. Малаковіч, У. А. Рудзін, А. І. Юркевіч, потым перапраўлялі ў лес праз сувязных Р. М. Канапацкую, В. Я. Ягорава і партызан брыгады «Народныя мсціўцы». Падпольшчыкі распаўсюджвалі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, газеты і інш. літаратуру, атрыманую ад падп. Мінскага гаркома і Варашылаўскага РК КП(б)Б, з партыз. брыгады «Народныя мсціўцы». У сак. 1943 у тайніку каля дома Юркевічаў фашысты знайшлі выробленыя на з-дзе скуры. Ад арыштаваных у канцы сак. 1944 Р. М. і Я. М. Канапацкіх, Наркевіч фашысты не дамагліся прызнанняў. Г. Ф. Аўчынка, С. Ф. Аўчынка і А. І. Юркевіч загінулі ў фаш. засценках, А. Ф. Аўчынка — у канцлагеры. Група дзейнічала да вызвалення Мінска сав. войскамі. У памяць аб падпольшчыках на будынку з-да ўстаноўлена мемар. дошка. *Р. М. Шавяла.*

**Група Сянько У. І.** Дзейнічала з вер. 1941 да снеж. 1943 на Мінскім чыг. вузле і ў горадзе. Аб'ядноўвала каля 10 чал.: братоў камсамольцаў У. І. Сянько (кіраўнік) і К. І. Сянько, іх бацьку, чл. КПСС з 1918, І. М. Сянько, маці Ю. Ф. Сянько, сястру Ванду, рабочага мясакамбіната М. П. Іванова, хатнюю гаспадыню Ф. К. Серпакову і інш. З лета 1942 падпольшчыкі падтрымлівалі сувязь са спецгрупай маёра Л. І. Сарокі. З вясны 1943 праз М. П. Гурыновіча група атрымлівала заданні ад камандавання партыз. атрада «Мясцовыя», з кастр. 1943 — ад Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б. Мела 4 канспіратыўныя кватэры. Да вясны 1943 падпольшчыкі знішчылі каля 10 ням. афіцэраў, захапілі 7 грузавых, 2 легкавыя аўтамашыны і пераправілі іх партызанам, пусцілі пад адхон 3 эшалоны, правялі шэраг іншых дыверсій. 26.9.1943 браты У. і К. Сянько, апрануўшыся ў форму ням. афіцэраў, разам з Івановым узарвалі эшалон з гаручым на ст. Мінск – Таварны, у час пажару згарэла 18 платформ з гаручым і 15 вагонаў з грузам. 2.10.1943 У. І. Сянько замініраваў на ст. Мінск – Пасажырскі паравоз і 2 вагоны, якія ўзарваліся паміж ст. Маладзечна і Вілейка. 9.10.1943 М. П. Гурыновіч і К. І. Сянько замініравалі паравоз і вагон з жывой сілай і тэхнікай праціўніка, якія ўзарваліся ў раёне ст. Параф'янава. У той жа дзень У. І. Сянько на ст. Мінск – Таварны замініраваў эшалон з гаручым, які ўзарваўся і згарэў каля в. Печы Барысаўскага р-на. У ноч на 3.11.1943 У. і К. Сянько ў форме ням. афіцэраў замініравалі эшалон з жывой сілай праціўніка, які ўзарваўся ў раёне чыг. платформы Седча, згарэла 4 вагоны. У. І. Сянько загінуў у перастрэлцы 17.11.1943 у час засады падпольшчыкаў на дарозе. У сярэдзіне снеж. 1943 К. І. Сянько з таварышам застрэлілі 2 ням. афіцэраў, узялі іх дакументы і форму. 17.12.1943 К. І. Сянько быў цяжка паранены і схоплены гітлераўцамі пры спробе захапіць ням. аўтамашыну з соллю. Гітлераўцы арыштавалі хворага бацьку, І. М. Сянько, пасля катаванняў павесілі яго разам з сынам Канстанцінам. Ю. Ф. Сянько пайшла ў партыз. атрад. *Р. М. Шавяла.*

**Група ў аптэцы № 1.** Дзейнічала з вер. 1941 да мая 1942 пад кіраўніцтвам Мінскага падп. гаркома КП(б)Б. Створана па ініцыятыве У. С. *Амельянюка.* Кіраўнік — камсамолец Г. Г. Фалевіч (былы студэнт хімічнага факультэта БДУ). Аб'ядноўвала камсамольцаў Н. А. Ярмоленка (Драздоўскую), Дз. Макеева, А. Сушу і інш. Памяшканне аптэкі было канспіратыўнай кватэрай падп. гаркома. Тут захоўвалася друкарскае абсталяванне і шрыфты, падп. л-ра, зброя. Падпольшчыкі забяспечвалі членаў інш. груп і партызан медыкаментамі, пад кіраўніцтвам Амельянюка пераправілі ў партыз. атрад каля 50 сав. грамадзян, у т. л. былых ваеннапалонных. 26.5.1942 члены групы былі арыштаваны гітлераўцамі. *Л. В. Аржаева.*

**Групы і арганізацыя на радыёзаводзе.** Дзейнічалі са снеж. 1941 да крас. 1944. Аб'ядноўвалі 18 чал.

Група Еліна У. М. Дзейнічала са снеж. 1941 да жн. 1943, з мая 1943 яе ўзначальваў Г. К. Раманоўскі. Аб'ядноўвала 7 чал. Праз партыз. сувязную В. Анісовіч падпольшчыкі Ф. Т. Гоман і С. Е. Місько наладзілі кантакт з партыз. атрадам «За Бацькаўшчыну» брыгады «Штурмавая» Мінскай вобл. Рабочыя радыёцэха Н. М. Пліс і Б. Рубанюк выносілі з з-да радыётавары, іх хавалі на кватэры Еліна і Рубанюка, потым Анісовіч і іншыя дастаўлялі іх партызанам. У маі 1943 Елін стаў радыстам партыз. атрада «За Бацькаўшчыну». Па заданню камандавання атрада падпольшчыкі вынеслі і пераправілі партызанам

З радыёпрыёмнікі. Летам 1943 падпольшчык К. Драгун арыштаваны, пры вобыску ў яго на кватэры знайшлі радыёдэталі; закатаваны фашыстамі. Адчуўшы, што за імі сочаць, пайшлі ў партызаны Гоман і Місько. Камандзір узвода партыз. атрада № 6 брыгады «Жалязняк» Г. К. РамаМоўскі загінуў у баі.

Група Ісачанка Н. К. Дзейнічала са снеж. 1941 да крас. 1944. Праводзіла паліт., разведвальную і баявую работу. Ісачанка, уладкаваўшыся ў чарцёжную з-да, у канцы 1942 перадала ў падп. групу «Артур» копіі чарцяжоў радыёапаратуры самалётаў «месершміт» і інш. новай апаратуры. Член групы інжынер І. Станкевіч быў звязаны з падп. арг-цыяй Ваен. савет. партыз. руху (ВСПР). Група ўстанавіла сувязь з партыз. атрадамі «Беларусь», «Мясцовыя», імя Калініна і 3-й Мінскай брыгадай імя Будзённага. Пры садзейнічанні падп. групы Дз. А. Малаша, К. К. Кульша ў жн.— вер. 1943 перадала ў атрад «Беларусь» радыёпрыёмнік, шмат радыёдэталей, сілкаванне для рацыі. Пры спробе здабыць такі ж радыёпрыёмнік для атрада «Мясцовыя» былі арыштаваны і пасля катаванняў вывезены на катаржныя работы ў Германію Н. А. Каракіна, Кульша, Малаш. У канцлагеры Эрувіль зняволеная Н. Лісавец звязалася з французскімі партызанамі. 8.5.1944 з лагера ўцяклі 36 жанчын і 27 мужчын. Створаным ў Вердэнскіх лясах жаночым партыз. атрадам «Радзіма» камандавалі б. партызанкі атрада «Мясцовыя» Лісавец і Р. Фрыдзон. Пасля прыходу войск саюзнікаў яны артымалі званне лейтэнантаў французскай арміі. Партызанкай атрада была і Н. А. Каракіна. Ісачанка працягвала весці разведку па заданню групы «Артур». У крас. 1944 арыштавана, пасля катаванняў 30.6.1944 пакарана смерцю фашыстамі ў лагеры Трасцянец. *М. І. Эпалетаў.*

**«Танюша»** — падпольная камсам. арг-цыя. Створана Мінскім падпольным гаркомам ЛКСМБ з членаў падп. арг-цыі «Андруша» для выканання спец. задання. Дзейнічала пад кіраўніцтвам гаркома ЛКСМБ з лютага да 27.11.1943 на радыёзаводзе і прылеглых да яго вуліцах горада. Аб'ядноўвала 8 чал., з іх 5 камсамольцаў. Сакратар — П. Я. Кудраўцава (Васільчанка), інструктар Мінскага падп. гаркома ЛКСМБ. Сувязныя Н. Ф. Кудраўцава (Філіповіч) і М. Ф. Пятроўская. Явачную кватэру трымала П. П. Кудраўцава. Асн. задачай арг-цыі было псаванне радыёапаратуры, што выраблялі для патрэб ням. арміі. Для гэтага П. Я. Кудраўцава ў лютым 1943 прайшла спец. падрыхтоўку на базе Мінскага падп. гаркома ЛКСМБ у в. Жукаўка Заслаўскага р-на. Па заданню гаркома яна ўладкавалася ў цэх па рамонту найноўшай сакрэтнай апаратуры прыбіральшчыцай, увайшла ў давер да старшага майстра-кантралёра, і ён стаў даручаць ёй упакоўку гатовых дэталей. П. Я. Кудраўцава, В. В. Лупач, В. М. Філіповіч (Маляўка), П. Я. Кудраўцаў (член групы Мінскага падп. гаркома камсамола), К. Я. Кудраўцава прывялі ў непрыгоднасць 22 радыёўстаноўкі (радыёстанцыі) для ваен. самалётаў і некалькі соцень радыёлямп. З лета да ліст. 1943 арг-цыя падтрымлівала сувязь падп. гаркома з Мінскім падпольным абкомам ЛКСМБ. Перадала гаркому камсамола пішучую машынку, пісчую і капіравальную паперу, боепрыпасы. Члены арг-цыі збіралі і перадавалі гаркому звесткі пра размяшчэнне ў Мінску і перамяшчэнне войск праціўніка, яго ўзбраенне, тэхніку, пра рэжым работы акупац. прадпрыемстваў, распаўсюджвалі лістоўкі, газеты, адозвы. Лупач была арыштавана і зняволена ў лагер смерці. У сувязі з пагрозай праваду падпольшчыкі ў ліст. 1943 выйшлі з горада. П. Я. Кудраўцаў загінуў у студз. 1944. У памяць пра гераізм падпольшчыкаў на будынку Мінскага прыборабудаўнічага з-да імя У. І. Леніна ўстаноўлена мемар. дошка. *Р. М. Шавяла.*

**Групы на вагонарамонтным заводзе імя А. Ф. Мяснікова.** Дзейнічалі пад кіраўніцтвам Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б. Налічвалі каля 20 чал.

Група Гудовіча В. І. Утварылася ў канцы 1942, дзейнічала да ліст. 1943. Аб'ядноўвала больш за 10 чал. Працавала ў кантакце з групай Г. М. Красніцкага (гл. Група на вагонарамонтным заводзе імя А. Ф. Мяснікова ў арт. *Мінскае партыйнае падполле*). Падпольшчыкі вывелі са строю 3 расточныя станкі, падавалі 2 паравозы, падпалілі 3 платформы з бензінам. У разгар *Курскай бітвы 1943* у жн. ўзарвалі паваротны круг і пашкодзілі 2 паравозы. Падпольшчыкі выраблялі на заводзе дэталі для аўтаматычнай зброі, прыстасаванні для расшыўкі рэльсаў і праз падп. гарком перадавалі партызанам.

Група Кухто І. В. Дзейнічала з чэрв. 1942 да кастр. 1943. Аб'ядноўвала 8 чал. Падпольшчыкі мелі сувязь з партыз. брыгадамі «Народныя мсціўцы», «Жалязняк» Мінскай вобл., адкуль атрымлівалі ўзрывчатку для правядзення дыверсій. 6.8.1943 Кухто і У. Шыманскі ўзарвалі перасовачны маставы кран на з-дзе, праз некалькі дзён на чыг. ст. Мінск замініравалі цыстэрну з гаручым і 4 вагоны з прадуктамі, якія ўзарваліся ў дарозе. Падпольшчыкі выраблялі вугальныя міны, пры дапамозе якіх выводзілі са строю паравозы. *Л. В. Аржаева.*

**«Крылоў»** — падпольная камсам. арг-цыя. Створана Мінскім падпольным гаркомам ЛКСМБ і дзейнічала пад яго кіраўніцтвам з 1.7.1943 да 3.7.1944. Аб'ядноўвала 6 чал. Сакратар П. М. Гойчык (напярэдадні вайны скончыў БПІ). Канспіратыўную кватэру трымала М. А. Лапша. Праз сувязную Е. М. Гойчык арг-цыя мела сувязь з Мінскім падп. гаркомам ЛКСМБ. Асн. яе заданне — весці ў горадзе і наваколлі разведку пра размяшчэнне вайсковых часцей, абарончых збудаванняў, ваенных аб'ектаў, рух паяздоў са ст. Мінск на Маладзечна. Падпольшчыкі склалі 2 карты-планы г. Мінска і наваколля з пазначэннем размяшчэння вайсковых часцей, абарончых збудаванняў, штабоў і інш. 22.6. 1944 П. М. Гойчык пры выкананні задання схоплены гітлераўцамі; загінуў у Трасцянецкім лагеры смерці. Астатнія члены арг-цыі працягвалі барацьбу да вызвалення Мінска. *Р. М. Шавяла.*

**«Роберт»** — падпольная камсам. арг-цыя. Вылучана з арг-цыі «Андруша». Дзейнічала з чэрв. да ліст. 1943 пад кіраўніцтвам Мінскага падпольнага гаркома ЛКСМБ. Аб'ядноўвала 5 чал. Сакратар Г. А. Марчанка («Роберт»). Падпольшчыкі збіралі і перадавалі гаркому звесткі пра чыг. эшалоны, якія ішлі праз Мінск на Барысаў, вялі назіранне за абарончымі збудаваннямі праціўніка, што ўзводзілі ў горадзе, за перамяшчэннем яго вайсковых часцей. Вывелі са строю вузел сувязі, трансфарматар і транспарцёр для падачы торфу на Камароўскай ЦЭЦ, спалілі прадуктовую базу. Пад кіраўніцтвам Марчанкі, які працаваў у друкарні, быў знішчаны падрыхтаваны набор фаш. лістовак. Члены арг-цыі перадавалі падп. гаркому камсамола друкарскі шрыфт, фарбы, паперу. Наладзілі сувязь з салдатамі славацкай часці, якая дыслацыравалася ў Мінску, перадавалі ім лістоўкі, пісьмы партызан, ад іх атрымлівалі пісталеты, патроны. С. І. Зайцаў і А. А. Яўстратаў малявалі антыфаш. карыкатуры і расклейвалі іх у горадзе. 11—12.11.1943 усе падпольшчыкі (акрамя сувязных) арыштаваны. Марчанка пасля катаванняў расстраляны ў лагеры смерці Трасцянец. Яўстратаў, браты Уладзіслаў і Сігізмунд Зайцавы і Ж. Л. Савіч (Вагіна) вывезены ў канцлагеры Германіі. *Р. М. Шавяла.*

**«Уладзімір»** — падпольная камсам. арг-цыя. Вылучана 20.12.1943 Мінскім падпольным гаркомам ЛКСМБ з падп. камсам. арг-цыі «Віктар» у складзе 7 чал. Дзейнічала пад кіраўніцтвам гаркома ЛКСМБ да вызвалення Мінска. У снеж. 1943— студз. 1944 аб'ядноўвала 11 членаў. У студз.— лют. 1944 трое падпольшчыкаў схоплены гітлераўцамі і вывезены на катаржныя работы ў Германію. Сакратар арг-цыі У. П. Нядзельцаў. Канспіратыўную кватэру трымала Е. Я. Нядзельцава. Пастаянную сувязь з арг-цыяй мелі інструктар гаркома ЛКСМБ П. Я. Кудраўцава, упаўнаважаныя В. А. Дамброўская і М. П. Клімовіч. З сак. 1944 падтрымлівала сувязь з Мінскім падпольным гаркомам КП(б)Б і выконвала яго заданні (сувязныя браты Іван і Ігнацій Савіцкія). У. П. Нядзельцаў і В. І. Марчанка, што працавалі ў Доме друку, выносілі з друкарні і перасылалі гаркому камсамола шрыфт, фарбу, паперу, выводзілі са строю друкарскае абсталяванне, затрымлівалі выпуск друкаванай прадукцыі акупантаў. Камсамольцы А. Барыневіч, У. П. Корзун, Б. С. Міхайлоўскі, Л. С. Чудзін праз падпольшчыцу М. С. Чудзіну, якая працавала санітаркай у 1-й клінічнай бальніцы, сістэматычна дастаўлялі і перасылалі падп. гаркому ЛКСМБ медыкаменты і перавязачны матэрыял. Ю. А. Жылінскі падпаліў колавую майстэрню акупантаў і склад шчацінна-шчотачнай ф-кі. Падпольшчыкі вялі разведку ў горадзе, здабывалі зброю і боепрыпасы, вопратку, абутак, мыла, соль, арганізоўвалі ўцёкі ваеннапалонных з лагераў, забяспечвалі іх цывільным адзеннем і выводзілі з горада ў партыз. атрады.

У барацьбе з ням.-фаш. акупантамі загінулі: У. М. Алімаў, З. А. Андрыянава, А. А. Арндт, В. Я. Аўчароў, А. І. Барсук, Я. А. Берасневіч, С. А. Благаразумаў, В. Ф. Верхаводка, М. М. Воранаў, А. Н. Вялюжын, Л. Г. Гайдучонак, З. З. Гало, П. М. Гойчык, В. І. Гудовіч, Б. С. Гуліс, К. В. Гурло, Р. М. Дрозд, Г. Д. Жукоўская, Г. І. Зубкоў, Г. І. Зубчонак, І. К. Кабушкін, В. К. Касцюк (Атанасава), Л. І. Кандратовіч (Дудзіна), В. І. Кандрашэвіч, Я. І. Кандрашэвіч, Л. А. Кедышка, М. А. Кедышка, Л. Ф. Клюйко, У. Г. Кляшкоў, М. М. Кніжнікаў, В. І. Крастоўская, П. Я. Кудраўцаў, А. М. Ляўкоў, Г. А. Марчанка, Л. Ф. Мацюшка, М. Ф. Мацюшка, Я. І. Навакоўская, А. П. Пашко, А. С. Рудзін, У. А. Рудзін, Г. Д. Сашна, Я. І. Сіткевіч, Дз. Т. Скабкароў, І. В. Станкевіч, К. І. Сянько, У. І. Сянько, В. В. Тарашкевіч, А. Л. Тарашкевіч, Г. Г. Фалевіч, Л. А. Хентаў, Л. М. Ярош. *Р. М. Шавяла.*

**МІНСКАЕ ПАРТЫЗА́НСКАЕ ЗЛУЧЭ́Н-**

**НЕ.** Створана ў ліст. 1941 — лют. 1942 пад кіраўніцтвам *Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б* на тэр. паўд. раёнаў Мінскай вобл. Адначасова ў паўн. раёнах Палескай вобл. сфарміравалася злучэнне партыз. атрадаў (камандзір Ф. І. Паўлоўскі). У крас. 1942 яны аб'ядналіся ў злучэнне партыз. атрадаў Мінскай і Палескай абл. З утварэннем *Палескага партызанскага злучэння* (сак. 1943) рэарганізавана ў М. п. з.

У яго ўваходзілі брыгады «Беларусь», «Буравеснік», 2-я Мінская, 3-я Мінская імя Будзённага, 12-я кав. імя Сталіна, 25-я імя Панамарэнкі, 27-я імя Чапаева, 32-я імя Калініна, 37-я імя Пархоменкі, 64-я імя Чапаева, 95-я імя Фрунзе, 99-я імя Д. Ц. Гуляева (да снеж. 1943), 100-я імя Кірава, 101-я імя Аляксандра Неўскага, 121-я імя А. Ф. Брагіна, 161-я імя Катоўскага, 200-я імя Ракасоўскага, 225-я імя Суворава, 258-я імя Куйбышава, 300-я імя Варашылава, імя Калініна і асобна дзейныя атрады. На час злучэння з Чырв. Арміяй (чэрв.—ліп. 1944) у М. п. з. ўваходзілі 19 брыгад і 3 асобныя атрады агульнай колькасцю 22 тыс. партызан. Камандзіры В. І. Казлоў (сак. 1942 — ліп. 1944), Р. Н. Мачульскі (кастр. 1942 — май 1943, в. а.). І. А. Бельскі (май — чэрв. 1943, люты — ліп. 1944, в. а.); нач. штаба П. М. Канавалаў (чэрв. 1942 — студз. 1943), К. М. Бакун (студз.— сак. 1943), М. П. Куксаў (сак.— жн. 1943), Р. В. Гнусаў (жн. 1943 — ліп. 1944). На тэр. Мінскай вобл. дзейнічалі *Слуцкай зоны партызанскае злучэнне* і *Барысаўска-Бягомльскай зоны партызанскае злучэнне*. У Мінскай (Чэрвеньскай) зоне ў кастр. 1942 пад кіраўніцтвам Мінскага падп. міжрайкома і падп. райкомаў КП(б)Б дзейнічалі брыгады 1-я Мінская, «Разгром», «За Савецкую Беларусь», «Полымя», імя Панамарэнкі, імя Чапаева, «Чырвоны Сцяг», імя Кірава, імя газ. «Правда», «За Радзіму», імя Шчорса (не ўвесь час) і некалькі асобна дзейных атрадаў. Налічвала каля 12 тыс. партызан. Акрача таго, на тэр. Мінскай вобл. дзейнічалі брыгады М. М. Нікіціна, «Стары». Усяго пад кіраўніцтвам падп. парт. арг-цый вобласці на чале з абкомам партыі на тэр. Мінскай вобл. дзейнічала 45 брыгад, якія аб'ядноўвалі больш за 55 тыс. партызан. Частка брыгад і атрадаў была перабазіравана ў інш. вобласці. У чэрв.— ліп. 1944 з Чырв. Арміяй злучылася 37 брыгад і 7 асобна дзейных атрадаў агульнай колькасцю больш за 40 тыс. партызан. Камандзірам злучэння Казлову, Бельскаму, Мачульскаму прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

*А. Л. Манаенкаў.*

**МІНСКАЕ ПАРТЫЙНАЕ ПАДПОЛЛЕ.** Дзейнічала з чэрв. 1941 да 3.7.1944 у акупіраваным ням.-фаш. захопнікамі Мінску пад кіраўніцтвам *Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б* і *Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б.*

У авангардзе стварэння падполля выступіў рабочы клас горада на чале з камуністамі. Вялікую ролю адыгралі старыя камуністы, ветэраны Вял. Кастрычніцкай сацыяліст. рэвалюцыі і грамадз. вайны Л. Я. *Адзінцоў*, С. К. Амельянюк, А. Ф. Арндт, Е. М. Баранаў, М. І. Думбра, С. І. *Заяц* (Зайцаў), І. І. *Матусевіч*, А. Ф. Орсік, І. І. Русовіч, С. В. Сержановіч. Адной з першых узнікла падп. група ў паравозным дэпо ст. Мінск. У яе ўвайшлі А. Дз. Балашоў, Ф. К. Жывалёў, І. І. Івашчонак, Ф. С. *Кузняцоў*, В. С. Купрыянава, К. А. Паўлечка, І. Г. Сцяпура і інш. У раёне Камароўкі створана падп. парт. група ў саставе Зайца (Зайцава), А. В. Каліноўскага, С. К. Амельянюка, У. С. *Амельянюка*, І. М. *Цімчука*, М. А. *Шугаева* і інш. У Кастрычніцкім р-не сфарміравалася парт. падп. група з 6. работнікаў рэсп. канторы Белнафтазбыту, у якую ўвайшлі К. Дз. Грыгор'еў, А. Л. Зубкоўскі, І. П. *Казінец*, В. К. *Нікіфараў*, Г. М. *Сяменаў* і інш. З выкладчыкаў і студэнтаў Мінскага юрыдычнага ін-та падп. групу арганізавалі камуністы М. Ф. *Малаковіч*, М. Б. *Осіпава*, А. А. *Сакалова* і інш. Восенню 1941 Малаковіч узначаліла *Каладзішчанскае партыйна-камсамольскае падполле.* У падп. групу гэта ўваходзілі М. Л. Гебелеў, М. Л. Екельчык, М. М. Пруслін, Х. М. Прусліна, Н. Л. Фельдман і інш. Да канца 1941 года у Мінску і яго ваколіцах дзейнічала больш за 50 падп. груп, якія налічвалі больш як 2 тыс. чал. Патрыёты вялі паліт. работу сярод насельніцтва, ратавалі ад фаш. палону воінаў Чырв. Арміі, арганізоўвалі сабатаж, дыверсіі, стваралі ўзброеныя групы, здабывалі зброю.

Каб павысіць эфектыўнасць дзейнасці падп. груп, трэба было цэнтралізаваць кіраўніцтва падполлем. Для гэтага ў ліст. 1941 на нарадзе прадстаўнікоў парт. арг-цый і груп Камароўкі, чыг. вузла, канторы Белнафтазбыту створаны Мінскі падп. гар. парт. к-т (гарком КП(б)Б). У яго склад уваходзілі І. К *Кавалёў*, Казінец, Грыгор'еў, В. С. *Жудро*, Заяц (Зайцаў), Сяменаў і інш. У снеж. 1941 падп. гарком устанавіў сувязь з падп. арг-цыяй пад наз. Ваенны савет партызанскага руху (ВСПР), якая ўзнікла ў Мінску ў вер. 1941 з 6. ваеннаслужачых Чырв. Арміі. У гар. падп. арг-цыю ўваходзілі нізавыя тэрытарыяльныя арг-цыі колькасцю не больш як 10 чал. Яны фарміраваліся на аснове асабістага знаёмства і рэкамендацый. Да пач. 1942 пад кіраўніцтвам гаркома дзейнічалі 12 парт. арг-цый і 7 камсам. груп. Падпольныя арг-цыі былі таксама на з-дах вагонарамонтным імя Мяснікова, станкабудаўнічым імя Варашылава, піўзаводзе «Беларусь», ЦЭЦ-2 і інш. прадпрыемствах.

Расшырала і ўдасканальвала барацьбу з ворагам група на чале з камуністам А. А. Маркевічам, якая вырасла ў буйную падп. арг-цыю і называлася Мінскім падп. к-там. Кожны яе член ствараў тройкі і пяцёркі, у іх разам з камуністамі ўваходзілі камсамольцы і беспартыйныя патрыёты. Пад яе кіраўніцтвам у горадзе і навакольных вёсках дзейнічалі 6 падп. груп, у т. л. на радыёзаводзе (11 чал.), вагонарамонтным з-дзе імя Мяснікова (9 чал.), у гар. управе. Арг-цыя захоўвала найстражэйшую канспірацыю, што абумовіла яе актыўную і працяглую дзейнасць. У мэтах канспірацыі патрыёты забяспечвалі сябе фіктыўнымі дакументамі, устанавілі мянушкі, паролі. Па прызнанню акупантаў да студз. 1942 падпольшчыкі Мінска вырабілі 1000 фальшывых пашпартоў. Яны стварылі канспіратыўныя кватэры, якія трымалі найбольш давераныя таварышы. На гэтых кватэрах праводзілі нарады, слухалі радыёперадачы, прымалі сувязных, хавалі сав. ваеннапалонных і патрыётаў, якія ўцякалі з фаш. лагераў, пражывалі падпольшчыкі, што знаходзіліся на нелегальным становішчы. Тут захоўвалася зброя, боепрыпасы, медыкаменты, друкарскае абсталяванне, дакументы. Асн. канспіратыўныя кватэры, якіх было 300, размяшчаліся на ўскраінах горада.

Адной з важнейшых задач падполля з'яўлялася масава-паліт. работа сярод насельніцтва: выкрыццё лжывай фаш. прапаганды, паведамленне праўдзівай інфармацыі, узмацненне ў сав. людзей цвёрдай упэўненасці ў перамозе, мабілізацыя іх на актыўную барацьбу з ворагам. Падпольшчыкі друкавалі на машынцы і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі. У снеж. 1941 гарком стварыў некалькі падп. друкарняў (гл. *Друкарні Мінскага партыйнага падполля*), у якіх у студз.— лют. 1942 надрукаваны лісток «Вестник Родины», а таксама «Зварот да грамадзян і грамадзянак часова акупіраванай нямецка-фашысцкімі захопнікамі тэрыторыі» і каля 3 тыс. экз. лістовак. Падпольная арг-цыя Маркевіча на шапірографе друкавала з снеж. 1941 лістоўкі, а з 1942 падп. газ. «Патриот Родины». Баявым парт. органам стала падп. газ. *«Звязда»*, якая разам з лістоўкамі дастаўлялася ў партыз. фарміраванні, а праз падпольшчыкаў-чыгуначнікаў — у многія гарады Беларусі.

Разгортвалася дыверсійна-баявая дзейнасць падпольшчыкаў. Патрыёты знішчылі гітлераўцаў і іх саўдзельнікаў, узрывалі склады, гаражы, майстэрні па рамонту ваен. тэхнікі, дэзарганізоўвалі работу транспарту. Найбольш адчувальныя ўдары па ворагу наносілі падпольшчыкі чыг. вузла. Яны ўзрывалі вагоны, цыстэрны з гаручым, воданапорныя вежы, выводзілі са строю стрэлкі, мініравалі эшалоны. У дыверсійныя групы тут уваходзілі А. А. Астроўскі, Балашоў, Я. К. Гарыца, І. В. Гомельскі Івашчонак, А. І. Карсека, Ю. Ю. Крыжывец, Матусевіч, Паўлечка, Н. Ф. Шкляроўскі і інш. У дзейнасці падполля вял. месца займала выратаванне з фаш. лагераў смерці байцоў і камандзіраў Чырв. Арміі, што трапілі ў палон. Толькі група Маркевіча ў першыя месяцы акупацыі вызваліла больш за 40 ваеннапалонных, Н. А. Галубоўская і Русовіч — каля 50. Члены групы, якую ўзначальвалі К. І. Трус і В. Ф. *Шчарбацэвіч*, перадалі ў шпіталь фотаапарат, матэрыялы для вырабу фатаграфій, бланкі пашпартоў для сав. афіцэраў, адрасы канспіратыўных кватэр. Большасць выратаваных байцоў і камандзіраў Чырв. Арміі ішла ў партызаны. Усяго падпольшчыкі Мінска па няпоўных даных пераправілі да партызан больш як 2200 ваеннапалонных.

26.10.1941 фашысты павесілі 12 падпольшчыкаў. У сувязі з пранікненнем у падполле варожай агентуры к-т у студз. 1942 прыняў рашэнне аб глыбокай канспірацыі, перамене месцаў жыхарства яго членаў, змене мянушак, пароляў, дакументаў. Для сувязі к-та з падп. арг-цыямі раёнаў былі вылучаны спец. ўпаўнаважаныя. Аднак у сак.— крас. 1942 гітлераўцам удалося правесці масавыя арышты, у засцэнкі было кінута больш за 400 чал. Пасля катаванняў 7.5.1942 публічна пакараны смерцю 28 кіраўнікоў і актыўных удзельнікаў падполля, у т. л. члены падп. гаркома КП(б)Б І. П. Казінец, С. І. Заяц (Зайцаў), Г. М. Сяменаў, расстраляны 251 падпольшчык. У крас. 1942 смяртэльна паранены В. С. Жудро. Падполле панесла вялікія страты, аднак працягвала актыўную барацьбу з ворагам. В. Ф. *Мацюшка* па даручэнню аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў падполля Шугаева ў крас.

1942 стварыла 2 парт. ячэйкі, якія ўзначалілі А. А. Карпусенка і Г. Ф. Майсеенка. У пач. мая 1942 адбылася нарада ўцалелага ад арыштаў актыву падполля, удзельнічала 14 чал., у т. л. сакратар падп. гаркома Кавалёў, а таксама У. С. Амельянюк, Гебелеў, Дз. А. *Караткевіч*, Нікіфараў, Орсік, К. І. *Хмялеўскі.* Адной з прычын сакавіцкага правалу падполля нарада лічыла недасканалую арганізацыйную структуру і канспірацыю падполля, слабую сувязь з патрыётамі, якія дзейнічалі на прадпрыемствах і ва ўстановах. Прынята рашэнне аб арганізацыйнай перабудове падполля. Асновай падп. парт. арг-цыі сталі вытворча-тэрытарыяльныя ячэйкі колькасцю не больш як 5 чал. Іх сакратары выходзілі на сувязь з членамі куставых (занальных) к-таў, апошнія — з падп. раённымі к-мі з 3 чалавек. На гэтай нарадзе ў састаў Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б былі давыбраны У. С. Амельянюк і Караткевіч. 26.5.1942 пры выкананні баявога задання забіты У. С. Амельянюк. Замест яго ў к-т уведзены Хмялеўскі. Гарком меў 4 аддзелы — агітацыі і прапаганды, ваенны, разведкі, арганізацыі дыверсій. Па рашэнню майскай 1942 нарады актыву падполля створаны падп. райкомы КП(б)Б: Варашылаўскі (сакратар Шугаеў), Чыгуначны (Матусевіч), Кастрычніцкі (Хмялеўскі, пазней М. К. *Каржанеўскі*), Сталінскі (Н. Я. *Герасіменка),* Тэльманаўскі (Гебелеў). Пад кіраўніцтвам і пры ўдзеле членаў гар. і раённых к-таў у маі — вер. аднаўлена і расшырана сетка падп. парт. арг-цый на з-дах імя Мяснікова, імя Варашылава, «Бальшавік», «Чырвоная зара», «Беларусь», на радыёзаводзе, у Доме друку, на ЦЭЦ-2, хлебазаводзе «Аўтамат», нафтабазе, абутковых ф-ках, цагельных і тарным з-дах і інш. Узмацнелі тэрытарыяльныя падп. групы ў раёнах чыг. вузла, Камароўкі, Старажоўкі, парку імя Чэлюскінцаў, на Чэрвеньскім тракце, у пас. Пушкінскім, Грушаўскім, імя Камінтэрна, на Балотнай станцыі і інш.

Мінскія патрыёты актыўна вялі разведку. Узброеныя вопытам падпольшчыкі пранiклі ў ваен., адм. і гасп. органы акупантаў, збіралі каштоўную інфармацыю для Чырв. Арміі, партыз. брыгад і атрадаў. Як адзначаў камандзір партыз. атрада «Мясцовыя», чл. гаркома партыі С. А. *Ваўпшасаў,* радыёстанцыі атрада працавалі амаль кругласутачна па прыёму і перадачы разведінфармацыі. Разведкай займаліся многія падп. групы. Група М. Т. Раманоўскага здабывала даныя аб размяшчэнні і перамяшчэнні ням. вайсковых часцей і штабоў, вяла назіранні за чыг. станцыяй, рухам эшалонаў на фронт і з фронту, выяўляла характар грузаў. Падпольшчыкі з групы К. Л. Няхай збіралі звесткі аб сетцы аэрадромаў і канцэнтрацыі на іх баявых самалётаў і інш.

Падпольны гарком правёў вял. работу па арганізацыі і разгортванню партыз. руху, прымаў дзейсны ўдзел у стварэнні партыз. атрадаў і брыгад, папаўняючы іх састаў за кошт жыхароў Мінска і вызваленых з лагераў сав. ваеннапалонных. Толькі ў 1943 з Мінска ў партызаны накіравана 6,5 тыс. чал. 1,5 тыс. сав. грамадзян, якіх вывелі да партызан, сталі камандзірамі і камісарамі брыгад і атрадаў, узначалілі разведку, групы падрыўнікоў. Падпольшчыкі збіралі і перадавалі партызанам зброю, боепрыпасы, медыкаменты, рыштунак, абмундзіраванне, радыёпрыёмнікі, пішучыя машынкі, папярэджвалі аб падрыхтоўцы карных аперацый. Актыўны ўдзел у падп. барацьбе і ў дапамозе партызанам прымалі мед. работнікі горада: прафесар медыцыны Я. У. Клумаў, урачы В. Г. Гаўрыленка (Сядова), В. І. Гудына, В. М. Гурыновіч, М. А. Кірзон, Н. І. Мельнікаў, В. І. Паўловіч, М. Г. Піліпушка, А. І. Плавінская, С. А. Прылуцкі, М. М. Уладысік, В. К. Шыкаўка, медсёстры В. Ф. Рубец, А. І. Сідаровіч, Ю. І. Сямашка і інш. Мінскае парт. падполле падтрымлівала цесныя кантакты больш як з 30 партыз. фарміраваннямі ў Баранавіцкай, Мінскай і Магілёўскай абл., разведгрупамі Чырв. Арміі. Падпольны гарком накіроўваў дзейнасць Каладзішчанскага, *Тарасава-Ратамскага партыйнага падполля, Дзяржынскага партыйна-камсамольскага падполля,* падполля ў інш. населеных пунктах.

Гарком шукаў шляхі ўстанаўлення сувязі з *Цэнтральным Камітэтам КП(б)Б* і Мінскім падп. абкомам КП(б)Б. У маі 1942 ён з дапамогай рацыі спецгрупы С. К. Вішнеўскага паведаміў у Маскву аб сваёй дзейнасці, звесткі былі перададзены ў ЦК КП(б)Б. У канцы лета 1942 Мінскі гарком праз падпольшчыкаў, разведчыкаў, партызан, работнікаў падп. парт. органаў паслаў у ЦК КП(б)Б першую пісьмовую справаздачу аб сваёй рабоце. Сувязь падп. гаркома з Мінскім падп. абкомам КП(б)Б была ўстаноўлена ў вер. 1942.

У вер. — кастр. 1942 гітлераўцы нанеслі новы ўдар па падполлю. У ноч на 26.9. 1942 пачаліся арышты. У засценкі СД кінуты сотні падпольшчыкаў. Большасць арыштаваных загінула ў «душагубках», на шыбеніцах, у лагерах смерці. Сярод іх сакратар падп. гаркома І. К. Кавалёў, члены Дз. А. Караткевіч, В. К. Нікіфараў, К. І. Хмялеўскі, сакратары райкомаў Н. Я. Герасіменка (з сям'ёй), М. К. Каржанеўскі, І. І. Матусевіч, М. А. Шугаеў, актыўныя работнікі падполля Л. Я. Адзінцоў, А. Ф. Арндт, М. А. Багданаў, Е. М. Баранаў, І. Л. Беланоўскі, С. А. *Благаразумаў*, М. М. і М. П. Воранавы, І. Я. Ганчарэнка, С. М. Гапоненка, А. П. Гук, А. М. Дзяменцьеў, Ф. К. Жывалёў, М. І. Зехаў, Н. Г. Зікуненка, І. І. Івашчонак, І. Х. Казлоў, Н. М. Качан (з сям'ёй), І. Ф. Падабед, В. Ф. Рубец, Г. П. Сапун, С. В. Сержановіч, П. К. Хадасевіч (з сям'ёй), П. Н. Хмялеўскі, Н. Т. Цвяткова, П. М. Цвяткоў, П. І. Чыркун, Г. Ф. Шырко, А. А. Шумская і многія інш.

Удар, нанесены акупантамі падполлю восенню 1942, быў надзвычай цяжкім. Аднак ужо 21.10.1942 у 300 месцах горада патрыёты расклеілі лістоўкі-плакаты з заклікам біць фашыстаў. ЦК КП(б)Б, Мінскі падп. абком, Мінскі і Слуцкі міжрайкомы, Барысаўскі міжрайпартцэнтр, Дзяржынскі, Заслаўскі, Лагойскі, Мінскі, Рудзенскі, Смалявіцкі, Чэрвеньскі райкомы, камандаванне партыз. фарміраванняў, якія мелі з падполлем сувязь, прынялі энергічныя меры да аднаўлення Мінскага падполля. У горад былі пасланы сувязныя і ўпаўнаважаныя. Работа па ўмацаванню падполля асабліва актывізавалася пасля *лютаўскага Пленума ЦК КП(б)Б 1943,* які з улікам накопленага вопыту даў дакладныя ўказанні аб арганізацыі падполля ў гарадах, метадах яго дзейнасці. ЦК КП(б)Б 29.9. 1943 зацвердзіў прапанову Мінскага падп. абкома аб стварэнні Мінскага падп. гаркома КП(б)Б, у які ўвайшлі С. К. Ляшчэня, Г. М. Машкоў, І. П. Паромчык (сакратары), Ваўпшасаў, М. Н. Ізюмскі, І. М. Родзін, А. Дз. Сакевіч (члены). Гарком базіраваўся пры спецатрадзе «Мясцовыя». Да канца 1943 сетка парт. падполля ахапіла ўвесь горад. Толькі з 25.11.1943 да 10.1.1944 было арганізавана 79 груп, якія аб'ядноўвалі 326 патрыётаў. Узмацнілася паліт. і дыверсійная работа. У адказ на праведзеную акупантамі ў крас. 1943 карную аперацыю «Чароўная флейта» падпольшчыкі спалілі вулканізацыйную ф-ку, вывелі са строю абсталяванне на вагонарамонтным з-дзе (двойчы), 2 гар. электрастанцыях, хлебазаводзе. Дыверсійныя групы чыг. вузла толькі ў 2-й пал. 1943 зрабілі больш за 50 буйных дыверсій. У разгар Курскай бітвы яны затрымалі або пашкодзілі 155 паравозаў. Сумесна з партызанамі падпольшчыкі Мінска знішчылі абл. кіраўніцтва, групу афіцэраў СД, главароў бел. нацыяналістаў Ф. Акінчыца, В. Іваноўскага, У. Казлоўскага. Падпольшчыца А. Р. *Мазанік* з удзелам М. П. *Дразда*, Осіпавай і партызанкі-разведчыцы Н. В. *Траян* па прыгавору бел. народа знішчылі ген. камісара Беларусі В. *Кубэ.* Малаковіч і разведчыца партыз. брыгады «Дзядзькі Колі» Г. В. Фінская здабылі схемы дыслакацыі ням. аэрадромаў, баз забеспячэння іх гаручым на ўсім цэнтр. участку фронту, звесткі аб сістэме радыёсувязі ў авіяцыі праціўніка. За 3 гады акупацыі падпольшчыкі Мінска ажыццявілі больш як 1500 дыверсій, знішчылі шмат тысяч гітлераўцаў і іх памагатых. Яны прынялі дзейсны ўдзел у выратаванні ад знішчэння і ўгону сав. людзей у фаш. Германію. Усяго з горада і наваколляў да партызан было выведзена каля 10 тыс. сем'яў.

Асабліва ўзмацнілася ідэйна-паліт. работа мінскага падполля ў 1943, калі ў горад пачалі паступаць газеты і лістоўкі падп. райкомаў КП(б)Б, орган Мінскага падп. гаркома газ. «Минский большевик», а таксама газеты «Правда», «Известия», «Комсомольская правда», «Савецкая Беларусь» і інш., якія засылаліся з-за лініі фронту. Друкаваная і вусная парт. прапаганда з'яўлялася вострай зброяй ў барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў. На пач. 1944 Мінскі падп. гарком КП(б)Б узначальваў 120 арг-цый і груп. Пад непасрэдным кіраўніцтвам парт. падполля дзейнічала *Мінскае камсамольска-маладзёжнае падполле.*

*І. М. Ігнаценка.*

**Арганізацыя і групы на Мінскім чыгуначным вузле.** Дзейнічалі з ліп. 1941 да ліп. 1944 пад кіраўніцтвам *Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б.* Ініцыятарамі падп. барацьбы на чыг. вузле былі машыністы, рабочыя і майстры пуцявой і станцыйнай гаспадаркі, паравознага і вагоннага дэпо, інжынерна-тэхн. работнікі, у т. л. А. Дз. Балашоў, Ф. К. Жывалёў, І. І. Івашчонак, А. І. Карсека, Ю. Ю. Крыжывец, Ф. С. Кузняцоў, В. С. Купрыянава, І. І. Матусевіч, К. А. Паўлечка, А. І. Плавінская, Г. І. Сцяпура, П. І. Чыркун, В. Д. Шацько, М. Ф. Шклярэўскі, І. В. Юховіч і інш. У ліп. — жн. 1941 на чыг. вузле ўзніклі першыя падп. групы, якія аб'ядналіся затым у падп. арг-цыю. Ядро яе склалі камуністы. Яны стварылі падп. парт. арг-цыю на чале з Кузняцовым (да вайны начальнік дэпо). Падп. парт. арг-цыя ахапіла сваім уплывам усе важнейшыя службы чыг. вузла (паравознае

## МІНСКАЕ ПАРТЫЙНА–КАМСАМОЛЬСКАЕ ПАДПОЛЛЕ У ГАДЫ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ




Аўтары карты Р.М.Шавяла, Т.М.Антановіч

23. Зак. 623.

### СПІС ВАЖНЕЙШЫХ ПАДПОЛЬНЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ І ГРУП КАНСПІРАТЫЎНЫХ КВАТЭР МІНСКАГА ПАРТЫЙНАГА І КАМСАМОЛЬСКАГА ПАДПОЛЛЯ

**Падпольныя арганізацыі і групы**

1. Гр. К. І. Труса і В. Ф. Шчарбацэвіча.
2. Гр. у аптэцы № 1.
3. Гр. «Вера».
4. Гр. М. П. Зайцава.
5. Гр. І. Х. Маркава.
6. Гр. В. З. Клімука.
7. Арг. «Андруша».
8. Арг. «Адам».
9. Арг. «Віктар».
10. Арг. «Уладзімір».
11. Арг. «Роберт».
12. Арг. на цвікавым з-дзе.
13. Арг. «Крылоў».
14. Арг. вуліц Р. Люксембург і К. Лібкнехта.
15. Арг. Г. Д. Сасінай.
16. Арг. на піўзаводзе «Беларусь».
17. Арг. на дрожжа-патачным з-дзе «Чырвоная зара».
18. Арг. на станкабудаўнічым з-дзе імя Варашылава.
19. Гр. на гарбарным з-дзе «Бальшавік».
20. Арг. на Грушаўскім пасёлку.
21. Групы на вагонарамонтным з-дзе імя Мяснікова (гр. Г. М. Красніцкага, гр. В. І. Гудовіча, гр. В. І. Кухто).
22. Групы на ЦЭЦ—2 (гр. Дз. Р. Гняўко, гр. М. І. Яраслаўцава).
23. Гр. М. Р. Гаўрылава.
24. Гр. С. А. Рамаsucceskaga.
25. Групы на плодаагароднінnай базе № 1 (гр. Н. Ц. Раманоўскага, гр. Я. І. Ярмалінскага, гр. М. К. Каржанеўскага-А. І. Кудрыцкага).
26. Гр. на балотнай станцыі.
27. Гр. В. С. Ждановіч-Рабавай.
28. Гр. І. П. Жураўскага.
29. Гр. У. І. Сянько.
30. Гр. Дз. І. Бязмена.
31. Гр. С. К. Вішнеўскага — Л. А. Барсукоўскага.
32. Гр. Р. П. Духоўвікавай.
33. Гр. В. Д. Шацько.
34. Гр. С. Я. Крывічаніна.
35. Гр. І. С. Рутkоўскага.
36. Гр. Дз. А. Малаша.
37. Гр. У. К. Арцішэўскага.
38. Гр. А. В. Чарненкі.
39. Гр. У. К. Пуцілы.
40. Гр. І. А. Адамовіча.
41. Арг. і групы на радыёзаводзе (арг. «Танюша», гр. У. М. Еліна, гр. Н. К. Усачанкі).
42. Гр. П. І. Чыркуна.
43. Гр. Г. М. Гамаліцкага.
44. Гр. А. А. Вадкоўскага — Б. А. Івашкевіча.
45. Гр. Я. М. Савіцкай.
46. Гр. на цагельных з-дах (гр. М. І. Зехава, гр. Р. Ф. Валынца).
47. Арг. на швейнай ф-цы імя Крупскай і ў пас. Малая Серабранка.
48. Гр. К. Л. Матузава.
49. Гр. НКДБ «Юра».
50. Гр. «Артур».
51. Арг. і групы на хлебазаводзе «Аўтамат».
52. Групы на хімфармзаводзе (гр. В. Я. Вяржбіцкай, гр. П. П. Асядоўскага).
53. Групы ў гаражы гар. управы (гр. А. Ф. Арндта, гр. Э. І. Екіменкі).
54. Арг. і групы на Мінскім чыгуначным вузле.
55. Гр. на Старажоўскай хлебапякарні.
56. Гр. І. І. Яцэвіча на плодаагароднінnай базе № 2.
57. Гр. на мэблевай ф-цы.
58. Ваенны савет партыз. руху (ВСПР).
59. Гр. на складзе бухгалтарскіх бланкаў.
60. Гр. настаўнікаў.
61. Калодзішчанская падп. арг.
62. Тарасава-Ратамская падп. арг.
63. Гр. у в. Аляксандрава Мінскага р-на
64. Гр. пры партыйна-камсамольскай арг. торфапрадпрыемства «Чырвоны сцяг».
65. Прылепскае падп. арг. (Смалявіцкі р-н).

**Канспіратыўныя кватэры Мінскага партыйнага і камсамольскага падполля.**

1. Вул. Антонаўская, 9 (сям'я Кедышка), арг. «Андруша».
2. Вул. Апанскага, 99 (Н. К. Рудакоўская), гр. М. І. Зехава на цагельным з-дзе.
3. Вул. Аранжэрэйная, 7 (П. С. Алейчык). ВСПР.
4. Вул. Аўтадораўская,9—42 (сям'я Любецкіх). гр. на швейнай ф-цы імя Крупскай.
5. Зав. Аўтадораўскі (сям'я Гудовічаў), арг. «Зубілкін» на вагонарамонтным з-дзе імя Мяснікова.
6. Вул. Беламорская. 19 (П. М. Цвяткоў), гр. Н. Р. Зікуненкі.
7. Вул. Беламорская. 142 (У. А. Будаеў), падп. ГК КПБ(б)Б.
8. Вул. Беларуская. 37 (Ф. К. Жывалёў), гр. Ф. К. Жывалёва на Мінскім чыг. вузле.
9. Зав. Беларускі, 4 (І. Х. Маркаў), гр. І. Х. Маркава на Мінскім чыг. вузле.
10. Вул. Бібліятэчная. 31 [Ж. Л. Савіч (Вагіна)], арг. «Роберт».
11. Вул. Бондараўская, 19 (сям'я Галавацкіх), арг. «Андруша».
12. Вул. Бондараўская, 22 (сям'я Дамброўскіх), арг. «Андруша», «Віктар».
13. Вул. Быхаўская, 20—1 (сям'я Берасневічаў). разведгрупа С. К. Вішнеўскага, арг. «Адам».
14. Вул. Вакзальная. 3—10 (сям'я Ліванавых). гр. М. Р. Гаўрылава на Мінскім чыг. вузле.
15. Вул. Варашылава (цяпер Кастрычніцкая), 23—19 (В. В. Бялан), гр. на гарбарным з-дзе «Бальшавік».
16. Вул. Горкага, 1/2—15 (М. А. Лапша), арг. «Крылоў».
17. Вул. Грамадская, 2 (В. М. Гіцкая) і 2а (А. М. Запольская), гр. А. Л. Запольскага.
18. Вул. Грамадская, 17—2 (А. П. Вялюжына), арг. «Адам».
19. Вул. Грунтовая, 8 (сям'я Кудраўцавых), арг. «Танюша».
20. Вул. Грыбаедава. 30—19 (сям'я Астраухавых), падп. гаркома КП(б)Б.
21. Зав. 2-і Грыгор'еўскі (Е. В. Асіноўская), падп. ГК КП(б)Б.
22. Вул. Даўмана, 27 (сям'я Юркевічаў, гр. на гарбарным з-дзе «Бальшавік».
23. Вул. Даўмана, 29—1 (сям'я Аўчынка). гр. на гарбарным з-дзе «Бальшавік».
24. Вул. Дабралюбава, 1 (В. Ф. Мацюшка), падп. ГК КП(б)Б і Варашылаўскі РК КП(б)Б.
25. Вул. Дабралюбава, 13—21 (П. В. Чайкоўскі), гр. С. А. Раманоўскага.
26. Зав. Дабралюбаўскі, 6—1 (В. З. Клімук), гр. В. З. Клімука ў інфекцыйнай бальніцы.
27. Вул. Заслаўская, 34 (сям'я Дрозд), падп. ГК КП(б)Б. •
28. Вул. Ізвозная, 29—1 (П. І. Чыркун), арг. на Мінскім чыг. вузле.
29. Вул. Інтэрнацыянальная, 24—1 (А. В. Чарненка). гр. А. В. Чарненкі.
30. Вул. Камароўская, 55 (І. Х. Казлоў), падп. ГК КП(б)Б.
31. Вул. Камуністычная, 48 (В. Ф. Шчарбацэвіч), гр. К. І. Труса і В. Ф. Шчарбацэвіч.
32. Вул. Крапоткіна, 114—1 (І. А. Кандрашэвіч), арг. на цвікавым з-дзе.
33. Вул. Лугавая, 5 (Г. М. Сямёнаў), падп. ГК КП(б)Б.
34. Вул. Розы Люксембург, 6 (кв. 6 — сям'я Платонавых, кв. 8 — сям'я Чараповічаў), арг. у раёне вуліц Р. Люксембург і К. Лібкнехта.
35. Вул. Магілёўская, 44—2 (В. Д. Шацько), гр. В. Д. Шацько на Мінскім чыг. вузле.
36. Вул. Магілёўская, 52а (сям'я Аўчаровых), арг. «Андруша».
37. Вул. Маскоўская, 61—4 (Г. І. Сярова), падп. ГК КП(б)Б.
38. Вул. Надзеждзінская, 14а (Л. Д. Драгун — Пастрэвіч), гр. НКДБ «Юра».
39. Вул. Надзеждзінская, 16—1 (Д. А. Драгун), гр. НКДБ «Юра».
40. Вул. Някрасава, 4а (В. П. Барсук), падп. ГК КП(б)Б.
41. Вул. Няміга, 35—5 (М. Я. Герасіменка), падп. ГК КП(б)Б.
42. Вул. Падлесная, 3 (сям'я Арндтаў), гр. А. Ф. Арндта.
43. Вул. Пажарная, 9—3 (М. П. Тужыкаў). арг. М. П. Тужыкава на хлебазаводзе «Аўтамат».
44. Вул. Палеская, 16 (сям'я Сянько), гр. У. І. Сянько.
45. Вул. Папаніна, 2—2 (сям'я Шарына), арг. «Зубілкін» на з-дзе імя Мяснікова.
46. Вул. Першамайская. 17—2 (І. Г. Матусевіч), арг. на станкабудаўнічым з-дзе імя Варашылава.
47. Вул. Пераможная, 9—12 (Я. С. Савіцкая), гр. Я. М. Савіцкай.
48. Зав. Полацкі, 6/1 (П. В. Рымашэўскі), падп. ГК КП(б)Б.
49. Вул. Правадная, 23—2 (К. І. Трус), гр. К. І. Труса і В. Ф. Шчарбацэвіч.
50. Вул. Прыгожая, 9—1 (А. І. Кудрыцкі), падп. ГК КП(б)Б.
51. Вул. Радашковіцкая, 14—1 (В. М. Філіповіч), арг. «Танюша».
52. Вул. Рымарская, 9 (сям'я Воранавых), падп. ГК КП(б)Б.
53. Вул. Савецкая, 6 (памяшканне аптэкі № 1), гр. Г. Г. Фалевіча ў аптэцы № 1.
54. Вул. Старавіленская, 26—3 (сям'я Ляхоўскіх), разведгрупа С. К. Вішнеўскага.
55. Вул. Старазіленская, 92 (С. Л. Мацюшка і сям'я Кандрашэвічаў), арг. на цвікавым з-дзе, гр. на балотнай станцыі.
56. Вул. Старажоўская, 26 (В. П. Сіпевіч), гр. В. П. Сіневіча.
57. Вул. Старaслабодская, 31 (інтэрнат Мінскага педінстытута імя Горкага), гр. «Вера».
58. Вул. Талстога, 42 (кв. 1 — Д. Ф. Харытончык, кв. 2 — сям'я Івашкевічаў), арг. Мінскага чыг. вузла.
59. Зав. Усходні, 18 (сям'я Абламскіх), падп. ГК КП(б)Б.
60. Вул. Уфімская, 4 (А. П. Сумарава), гр. Г. М. Красніцкага на з-дзе імя Мяснікова.
61. Вул. Цнянская, 14—2 (К. Я. Нядзельцава), арг. «Андруша», «Віктар», «Уладзімір».
62. Вул. Чарнышэўскага, 11 (сям'я Амельянкоў), падп. ГК КП(б)Б.
63. Вул. Чкалава, 26 (С. Ф. Кузняцоў). арг. на Мінскім чыг. вузле.
64. Вул. Чкалава, 48—1 (В. У. Лаўрыновіч), арг. Г. Д. Сасінай.
65. Вул. Чырвоназорная, 34 (Л. У. Валадзько), арг. «Андруша», «Віктар».
66. Зав. Чырвонамысленскі, 7—2 (Дз. І. Безмен) гр. Дз. І. Безмена на Мінскім чыг. вузле.
67. В. Аляксандрава (М. Ф. Ліпень), Аляксандраўскага патрыятычнага падполля.
68. В. Ваданой (Б. А. Ляоненка, З. Ф. і Н. Ф. Крыштаповіч), Калодзішчанскай падп. арг.
69. Ст. Калодзішча (М. М. Афанасьеў), Калодзішчанскай падп. арг.
70. В. Калодзішчы (Н. Ф. Баршчэўская, М. Ц. Міхальчук), Калодзішчанскай падп. арг.
71. В. Міханавічы (А. Дз. Малей), Аляксандраўскага патрыятычнага падполля.
72. В. Прылепы (П. У. Лучонак, А. Ф. Няхайчык), Прылепскай падп. арг.
73. В. Ратамка (П. М. Бортнікаў, Ф. Ф. Бурчок), Тарасава-Ратамскай падп. арг.
74. Ст. Сцяпянка (І. М. Кавалёў), Калодзішчанскай падп. арг.
75. В. Тарасава (В. І. Лашчыцкі), Тарасава-Ратамскай падп. арг.

---

дэпо, пасажырскую і таварную станцыі, вадакачку і інш.) і стварала там дыверсійна-баявыя групы. З снеж. 1941 барацьбу падпольшчыкаў-чыгуначнікаў узначаліў Мінскі падп. гарком КП(б)Б. У 1941—44 пад яго кіраўніцтвам у розны час дзейнічала каля 30 падп. груп. Яны аб'ядноўвалі па няпоўных даных больш за 220 чал., чацвёртую частку якіх складалі камуністы і камсамольцы. Падпольшчыкі збіралі зброю і боепрыпасы, ратавалі ваеннапалонных, наладжвалі сувязь з партызанамі, распаўсюджвалі сярод насельніцтва горада зводкі Саўінфармбюро і лістоўкі, дастаўлялі з Мінска ў Асіповічы, Баранавічы, Барысаў, Маладзечна, Оршу, Слуцк і інш. гарады і населеныя пункты Беларусі падп. газ. *«Звязда»*, інш. выданні падп. гаркома КП(б)Б. Члены груп псавалі чыг. збудаванні і пуці, знішчалі рухомы састаў, дэзарганізоўвалі водазабеспячэнне, зрывалі графікі руху цягнікоў і рамонтныя работы, дапамагалі партызанам учыняць крушэнні варожых эшалонаў. У канцы 1941 машыніст Крыжывец, накіраваўшы паравоз у бок паваротнага круга, які знаходзіўся ў нерабочым стане, зваліў лакаматыў у катлаван. Тады ж падпольшчыкі на ст. Мінск сапсавалі вугальны кран. У канцы снеж. 1941, у разгар бітвы пад Масквой, група патрыётаў на чале з камуністам Жывалёвым вывела са строю 2 вадакачкі і водапапорную сетку чыг. вузла ў радыусе да 3 км, паралізаваўшы больш як на 10 дзён рух варожых эшалонаў на фронт. У выніку гэтай дыверсіі замест 90—100 эшалонаў у суткі з Мінска адыходзіла 5—6. З 1942

падпольшчыкі наносілі ўдары ў асн. па паравозным і вагонным дэпо, пасажырскай і таварнай станцыях, чыг. пуцях, а таксама па саставах з ваен. грузамі і жывой сілай праціўніка, што рухаліся праз Мінск. Шэраг дыверсій ажыццявілі члены падп. групы Шацько, якія атрымлівалі міны і ўзрыўчатку з партыз. атрада імя Суворава брыгады «Народныя мсціўцы» Мінскай вобл. У крас. 1943 яны ўстанавілі міны на эшалон з бензінам, які ўзарваўся паміж ст. Талька-Вярэйцы, згарэла амаль палавіна саставу, рух паяздоў быў перапынены на 18 гадзін. 21.5.1943 Шацько і члены яго групы замініравалі на ст. Мінск эшалон з авіябомбамі. Выбух адбыўся на ст. Рудзенск, знішчаны ўвесь састаў, а таксама эшалон з гаручым, які стаяў побач, пашкоджаны чыг. палатно і будынкі. У той жа дзень група Шацько падарвала яшчэ адзін састаў з гаручым. У чэрв. 1943 падпольшчыкі групы Л. А. Даўгалёва ўстанавілі міны на воінскі эшалон, які ішоў у бок фронту; узарваўся на ст. Калодзішчы, знішчана 8 вагонаў са снарадамі. У 2-й пал. 1943 на чыг. вузле было ўчынена больш за 50 буйных дыверсій, у выніку якіх узарваны і выведзены са строю дзесяткі паравозаў і сотні вагонаў, знішчана вял. колькасць гаручага, ваен. тэхнікі, боепрыпасаў, амуніцыі, жывой сілы ворага. Толькі група З. З. *Гало*, якая мела сувязь з партыз. атрадам імя Суворава, у канцы ліп.— 1-й пал. вер. замініравала 6 эшалонаў. У дарозе ўзарвалася 20 цыстэрнаў з гаручым, знішчана шмат вагонаў з боепрыпасамі і вайсковай амуніцыяй, зенітная гармата. Летам і восенню 1943 па некалькі эшалонаў і паравозаў падарвалі члены падп. камсам. груп Г. Д. Сасінай і У. І. Сянько. У кастр. члены падп. групы «Удар» (кіраўнікі М. М. Афанасьеў і С. Э. Эрдман), якія атрымлівалі міны з партыз. атрада «Сцяг» брыгады «Разгром» Мінскай вобл., падарвалі на ст. Мінск і за горадам 6 вагонаў з боепрыпасамі і 10 цыстэрнаў з бензінам, пашкодзілі 2 паравозы, 100 м чыг. палатна. П. П. Бачыла і К. М. Барысёнак 30.10.1943 ажыццявілі ўзрыў у афіцэрскай сталовай на пасажырскім вакзале, забіта больш за 20 гітлераўцаў, некалькі дзесяткаў паранена. Падпольшчыкі на чале з П. Дз. Баранавым знішчылі 6 цыстэрнаў з гаручым і 30 вагонаў. У пачатку ліст. слесар паравознага дэпо С. Д. Казак замініраваў цыстэрну з гаручым. Узрыў адбыўся каля ст. Калодзішчы, згарэла сем 50-тонных цыстэрнаў і 16 вагонаў з ваен. грузам. Эфектыўнымі былі дыверсіі падпольшчыкаў, якія мелі сувязь з партыз. атрадам «Мясцовыя». У выніку ў Мінску і яго ваколіцах выведзены са строю дзесяткі паравозаў, вагонаў, платформ з ваен. тэхнікай, цыстэрнаў з гаручым і інш. Каля 20 дыверсій учынена на чыг. вузле пры садзеянні партызан 3-й Мінскай брыгады імя Будзённага; знішчана і пашкоджана 8 паравозаў, 23 вагоны, 5 цыстэрнаў. Дыверсіі дапаўняліся масавым сабатажам чыгуначнікаў. На чале з падпольшчыкамі рабочыя і служачыя заблытвалі праязную дакументацыю, зрывалі графікі руху цягнікоў, дрэнна рамантавалі рухомы састаў, выводзілі са строю семафоры і стрэлкі, засыпалі пясок і металічныя стружкі ў буксы паравозаў і вагонаў, падпальвалі станцыйныя збудаванні і інш. У выніку гэтых і інш. дыверсійных актаў у ліпені — жніўні 1943 у час баёў пад Курскам акупанты не атрымалі па графіку 155 паравозаў. Шэраг аперацый падрыхтавалі і паспяхова правялі патрыёты чыг. вузла ў 1944. У пачатку студз. яны ўзарвалі 2 цыстэрны, згарэла 50 т бензіну. 10.1.1944 Т. Ф. Андрэеў замініраваў на ст. Мінск эшалон, які рыхтаваўся да адпраўкі, узрывам забіта і паранена 25 гітлераўцаў. Кіраўнік падп. групы машыніст І. Ц. Чарнуха прымацаванай да катла паравоза мінай на перагоне Рудзенск — Дрычын пусціў пад адхон састаў з ваен. тэхнікай. На ст. Барысаў, куды ён прывёў пасажырскі цягнік, замініраваў паравоз стаячага побач эшалона, які ўзарваўся ў дарозе, пад адхон зляцелі 2 вагоны з жывой сілай і некалькі платформ з баявой тэхнікай праціўніка. У пач. мая каля ст. Ратамка падпольшчыкі знішчылі аўтадрызіну, забіта 12 акупантаў. 5.5.1944 на перагоне Мінск — Стоўбцы яны ўзарвалі 4 вагоны з ням. афіцэрамі, забіта і паранена 87 фашыстаў. 12.5.1944 падпольшчыкі знішчылі 2 цыстэрны з бензінам, 15.5.1944 — вагон з боепрыпасамі, 2 платформы з аўтамашынамі. Важнай часткай баявой дзейнасці патрыётаў чыг. вузла быў збор разведінфармацыі. Падп. групы на чале з Ю. М. Буры-Бурымскім, Дз. І. Бязменам, А. А. Вадкоўскім, Г. М. Гамаліцкім, Б. А. Івашкевічам і інш. вялі назіранне за перакідкай варожых войск і грузаў па ўсіх напрамках, выяўлялі пункты, месцы, час канцэнтрацыі жывой сілы і тэхнікі, збіралі даныя аб дыслакацыі штабоў і часцей праціўніка. Усе гэтыя звесткі перапраўляліся партызанам і за лінію фронту. Паспяхова вяла разведку група камуніста І. Х. Пагодзіна (Маркава), якая прыцягнула да падп. работы ням. антыфашыста Г. Штрубэ (служыў нач. канцылярыі ў дырэкцыі імперскіх чыгунак «Мінск»). Члены падп. арг-цыі «Артур» пад кіраўніцтвам М. П. Філановіча кругласутачна рэгістравалі рух варожых эшалонаў на фронт і назад, здабывалі звесткі аб проціпаветр. абароне чыг. вузла, што садзейнічала паспяховаму правядзенню баявых аперацый наступаючай Чырв. Арміі. У чэрв. 1944 падпольшчыкі з мэтай аказання дапамогі сав. войскам у *Беларускай аперацыі 1944* актыўна ўдзельнічалі ў дэзарганізацыі варожых перавозак. Напярэдадні вызвалення горада падпольшчыкі і рабочыя ўступілі ў бой з варожымі дыверсантамі, якія спрабавалі знішчыць вакзал, і вялі яго да падыходу часцей Чырв. Арміі. Разам з сав. воінамі ўдзельнічалі ў размініраванні вакзала, абясшкодзілі 17 мін, вял. колькасць узрыўчаткі.

*Л. В. Аржаева.*

**Арганізацыя і групы на хлебазаводзе «Аўтамат».** Дзейнічалі з вер. 1941 да ліп. 1944 пад кіраўніцтвам Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б, Варашылаўскага падп. РК КП(б)Б г. Мінска (у маі — вер. 1942). Аб'ядноўвалі ў розны час 65 чал., у т. л. 12 камуністаў і 27 камсамольцаў. Сакратар парт. арг-цыі М. П. Тужыкаў (май — снеж. 1942). Кіраўнікі 7 падп. груп: М. Ф. Хаткоўскі (вер. 1941 — май 1942), М. П. Шэлестаў (чэрв. 1942— чэрв. 1943), А. І. Івашкевіч (ліп. 1943— сак. 1944), М. Н. Паўлаў (вер. 1941— снеж. 1942), Я. Ф. Раманава (снеж. 1942 — сак. 1944), А. П. Буйчыкаў (студз. 1943 — сак. 1944), М. М. Зубко (вер. 1941 — снеж. 1942), Тужыкаў (вер. 1941 — ліп. 1944), Л. П. Мамат (студз.— снеж. 1942), А. Р. Фаловіч (снеж. 1942— кастр. 1943). Групы пачалі стварацца ў вер. 1941 незалежна адна ад адной па ініцыятыве камуністаў, камсамольцаў і беспартыйных. У ліку першых былі створаны групы камуністаў Зубко, Тужыкава, Хаткоўскага, беспарт. Мамата, Паўлава. Хаткоўскі прыцягнуў да падп. работы заг. вытворчасцю хлебазавода Івашкевіча, брыгадзіра змены Д. С. Рачыцкага, бухгалтара Шэлестава, рабочых М. М. Саўчанку і Л. К. Рымер (Жараву). У групу Зубко ўваходзілі Н. А. Грак (Лаўрусенка), А. Я. Зубко, Г. Тупіцкая, П. А. Тупіцкі, якія не працавалі на з-дзе. Пад кіраўніцтвам Паўлава ў розны час дзейнічала 19 чал., у асн. работнікі хлебазавода, студэнты, выпускнікі тэхнікума і ін-та фізкультуры Я. А. Грыгаровіч, М. В. Когут, Р. Г. Раманаў, Я. Ф. Раманава, К. Я. Хілько, І. Я. Шарко і інш. Група Тужыкава аб'ядноўвала 6 чал., Мамата — 5. У пач. мая 1942 па ініцыятыве падп. гаркома на хлебазаводзе было створана кіруючае парт. ядро — падп. парт. арг-цыя. У яе састаў увайшлі М. А. Гардзееў, М. Б. Знак, Зубко, Івашкевіч, І. А. Мазанік, Мамат, Паўлаў. Сувязь з падп. гаркомам Тужыкаў, Хаткоўскі і Шэлестаў («Лявончык») падтрымлівалі праз В. І. Сайчыка («Дзед», «Баця»), Паўлаў і Зубко — праз Г. Ф. Шырко («Цёця Нюра»), Гардзееў і Знак — праз Н. Я. Герасіменку і С. М. Гапоненку. У сувязі з пачатымі восенню 1942 арыштамі ўдзельнікаў Мінскага парт. падполля Гардзееў, Знак, Зубко, Мамат, Паўлаў і інш. вымушаны былі пайсці да партызан. Падпольшчыкі, якія засталіся на хлебазаводзе, наладзілі сувязь з партыз. фарміраваннямі, што дзейнічалі ў ваколіцах Мінска, і выконвалі іх заданні. У 1943—44 на хлебазаводзе працягвалі дзейнічаць падп. групы Тужыкава, Івашкевіча. На базе групы Паўлава былі створаны 2 падп. групы — Я. Ф. Раманавай (16 чал.) і Буйчыкава (4 чал.). Групу Мамата ўзначаліў Фаловіч. Падпольшчыкі распаўсюджвалі сярод рабочых хлебазавода і насельніцтва Мінска зводкі Саўінфармбюро і агітацыйна-прапагандысцкую літаратуру, збіралі развед-даныя аб праціўніку, перапраўлялі да партызан сав. грамадзян, у т. л. былых ваеннапалонных, ратавалі моладзь ад вывазу на катаржныя работы ў Германію, сабатавалі мерапрыемствы акупантаў, учынялі дыверсіі. Паўлаў наладзіў кантакт з работнікамі біржы працы У. Л. Серафімавым і А. П. Станкевічам, а таксама дырэктарам хлебазавода, з дапамогай якіх на работу на хлебазавод прымаліся падпольшчыкі. У вер. 1941 члены групы Паўлава размножылі і распаўсюдзілі сярод рабочых прамову па радыё І. В. Сталіна ад 3.7.1941, пашкодзілі на былым стадыёне шмат падрыхтаваных да адпраўкі на фронт аўтамашын. У кастр.1941 П. І. Кобзеў («Юрык») вывеў са строю 2 электраматоры для выдзімання печаў, у снеж. — эканамайзер, што сарвала выпечку хлеба. Вугальнай мінай, зробленай Зубко, у снеж. 1941 быў пашкоджаны паравоз, які падвозіў на хлебазавод торф. Па заданню Паўлава падпольшчык Когут даставіў з партыз. брыгады «Смерць фашызму» Мінскай вобл. магнітную міну і 20 кг узрыўчаткі і замініраваў комін, які 21.7.1943 у выніку выбуху быў моцна пашкоджаны. Фаловіч і М. П. Курашэвіч сістэматычна выводзілі са строю аўтамашыны ў гаражы; Фаловіч і М. Гарбачоў у кастр. 1943 узарвалі ў гэтым гаражы

5 машын, а на шостай спрабавалі выехаць да партызан. За горадам падпольшчыкі наскочылі на засаду, у перастрэлцы Гарбачоў быў забіты, паранены ў абедзве нагі Фаловіч схоплены гітлераўцамі. 19.12.1943 Раманава і Н. А. Сопатава (Кароткая) дастаўленымі з партыз. атрада імя Варашылава брыгады «Смерць фашызму» магнітнымі мінамі знішчылі 3 грузавікі і 300 бочак гаручага. Падпольшчыкі хлебазавода дапамагалі збіраць разведданыя групе разведчыкаў С. К. Вішнеўскага, рэгулярна забяспечвалі партызан брыгад М. М. Нікіціна, «Смерць фашызму» зброяй, боепрыпасамі, адзеннем, медыкаментамі, бланкамі пропускаў, хлебам, мукой, соллю і інш. прадуктамі. У лют. 1944 Буйчыкаў перадаў партызанам рататар (апарат для размнажэння лістовак), тапаграфічныя карты ваколіц Мінска. 22.3.1944 многія члены падполля на хлебазаводзе арыштаваны. *А. М. Літвін.*

**Арганізацыя на Грушаўскім пасёлку.** Дзейнічала з вер. 1941 да кастр. 1942 пад кіраўніцтвам Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б, Сталінскага падп. РК КП(б)Б г. Мінска (з мая 1942). Створана па ініцыятыве Н. Я. Герасіменкі. Аб'ядноўвала 16 чал. Кіраўнік С. М. Гапоненка. У арг-цыю ўваходзілі камуністы М. А. Гардзееў, М. Б. Знак, М. Е. Кобец, Л. Р. Мацюхіна, С. С. Рацькоў, Я. В. Сняжкоў, вакол якіх групаваліся беспарт. патрыёты Л. І. Бутылёва, Л. Я. Сняжкова і інш. Падпольшчыкі падтрымлівалі сувязь з Варашылаўскім падп. РК КП(б)Б г. Мінска, падп. групамі на хлебазаводзе «Аўтамат», мэблевай ф-цы і інш. Па даручэнню падп. гаркома члены арг-цыі ўдзельнічалі ў стварэнні партыз. атрада М. М. Нікіціна (гл. ў арт. *Партызанская брыгада М. М. Нікіціна*), збіралі і перадавалі партызанам зброю, боепрыпасы, медыкаменты, пераправілі да партызан сав. грамадзян, у т. л. б. ваеннапалонных, адправілі з хлебазавода «Аўтамат» машыну з хлебам, перадалі радыёпрыёмнік. Патрыёты распаўсюджвалі сярод насельніцтва лістоўкі і інш. агітацыйную літаратуру, сабатавалі мерапрыемствы акупантаў, рыхтавалі падпал лямцавай ф-кі, аперацыю па вызваленню з мінскай турмы арыштаваных падпольшчыкаў. 6.10.1942 гітлераўцы схапілі Гапоненку. Каб пазбегнуць арышту, да партызан пайшлі Гардзееў, Знак, Рацькоў, Сняжкоў, В. Ц. Сцяпанава (Касцян) і інш. *А. М. Літвін.*

**Арганізацыя на дрожджава-патачным заводзе «Чырвоная зара».** Дзейнічала з вер. 1941 да ліп. 1944 пад кіраўніцтвам падп. Заслаўскага, Рудзенскага, Смалявіцкага райкомаў, пазней і Слуцкага міжрайкома КП(б)Б. Узначальвала арг-цыю камуніст М. Р. Іваноўская. Аб'ядноўвала 27 чал., 3 групы, якімі кіравалі чл. ВКП(б) Л. Дз. Казючыц, беспарт. патрыёты П. Ф. Карпека, Б. І. Чырко. У састаў арг-цыі ўваходзілі камуністы М. Кудзелька, Я. М. Мілінкевіч, Ф. Нікіфарава, Л. А. Пархімовіч, П. Пілецкі, Ф. М. Пшэчэнка і інш. У жн. 1941 Іваноўская па заданню аднаго з арганізатараў Мінскага парт. падполля Н. Я. *Герасіменкі* ўладкавалася на дрожджава-патачны з-д з мэтай аб'яднання камуністаў і камсамольцаў, уцягнення патрыятычна настроеных рабочых у барацьбу з акупантамі. У ліку членаў падп. арг-цыі былі М. В. Кацько, П. П. Барысенка, В. І. Куракова, Э. І. Пархімовіч (Чырко), У. М. Герман, М. В. Пелюх, Е. С. Марозава і інш. Падпольшчыкі праводзілі паліт. і прапагандысцкую работу сярод рабочых з-да і насельніцтва, арганізоўвалі сабатаж і дыверсіі на з-дзе, падбіралі рабочых і ваеннапалонных для адпраўкі ў партыз. атрады, збіралі зброю, боепрыпасы і медыкаменты. Сабраныя зброя і медыкаменты захоўваліся на явачнай кватэры, якую трымалі Савінскія. З першых месяцаў акупацыі Карпека, Нікіфарава, Э. І. Пархімовіч, Я. Ф. Савіцкая прымалі па радыё, размнажалі і распаўсюджвалі сярод рабочых з-да зводкі Саўінфармбюро. У маі — чэрв. 1942 яны распаўсюдзілі больш за 30 экз. 1-га нумара газ. «Звязда». Падтрымлівалі сувязь з падполлем на хлебазаводзе «Аўтамат», з партыз. атрадамі імя Жукава і імя Фрунзе брыгады «Штурмавая», атрадам «Мясцовыя», брыгадамі «За Савецкую Беларусь», імя Фрунзе, якія дзейнічалі на тэр. Мінскай вобл. У маі 1942 Пелюх знішчыў цыстэрну сыравіны для вытворчасці дражджэй. Вясною 1943 Карпека і Чырко адправілі ў атрад імя Жукава групу рабочых, 2 аўтамашыны з медыкаментамі, зброяй і харчамі. У 1944 у брыгады «Штурмавая» і імя Ракасоўскага патрыёты перадалі схемы ўмацаванняў, якія ўзводзіў праціўнік вакол Мінска. У час баёў за вызваленне горада часцямі Чырв. Арміі падпольшчыкі збераглі ад знішчэння акупантамі абсталяванне свайго з-да. *М. Ф. Шумейка.*

**Арганізацыя па піўзаводзе «Беларусь».** Дзейнічала з вер. 1941 да кастр. 1942 пад кіраўніцтвам Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б, Варашылаўскага падп. РК КП(б)Б г. Мінска (у маі — вер. 1942). Створана па ініцыятыве рабочых завода. Аб'ядноўвала 16 чал. Сакратар падп. парт. арг-цыі Н. Р. Зікуненка. Вакол парт. арг-цыі, у якую ўваходзілі камуністы І. К. Брылеўскі, К. І. Будай, С. І. Васілеўскі, С. В. Малажаеў, А. А. Папкоўскі, В. П. Сіневіч, К. Ц. Тоўсцік, Л. М. Чаргановіч, групаваліся камсамольцы У. К. Будай і М. В. Сіневіч, беспарт. М. П. Будай, М. Р. Дарасевіч, Ю. І. Сіневіч, Н. Ц. і П. М. Цвятковы. Падпольшчыкі вялі арганізатарскую і паліт. работу сярод рабочых з-да, распаўсюджвалі сярод іх зводкі Саўінфармбюро, антыфаш. лістоўкі, збіралі і перапраўлялі партызанам зброю і боепрыпасы. Сям'я Сіневічаў і Чаргановіч перапісвалі і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі, падп. газ. «Звязда». Работнікі сталовай К. І. Будай і Папкоўскі забяспечвалі падпольшчыкаў прадуктамі, харчовымі карткамі, у сталовай пад выглядам рабочых харчаваліся многія падпольшчыкі і партыз. сувязныя. Брылеўскі арганізаваў збор медыкаментаў, Васілеўскі і Малажаеў — адзення, Дарасевіч — дастаўку зброі і боепрыпасаў партызанам. Кватэры Цвятковых і Сіневічаў былі канспіратыўна-явачнымі. Тут сустракаліся і праводзілі нарады члены падп. гаркома, сакратар Варашылаўскага падп. РК КП(б)Б г. Мінска М. А. Шугаеў, падпольшчыкі, захоўваліся бланкі ням. пропускаў, службовых пасведчанняў і інш. дакументы. *А. М. Літвін.*

**Арганізацыя на станкабудаўнічым заводзе імя К. Я. Варашылава** (цяпер імя Кастрычніцкай рэвалюцыі). Дзейнічала з кастр. 1941 да ліп. 1944 пад кіраўніцтвам Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б і Сталінскага падп. РК КП(б)Б г. Мінска (у маі — вер. 1942). Створана па ініцыятыве камуністаў І. Г. Матусевіча і А. М. Драгуна, беспарт. патрыётаў П. І. Гавіновіча, Б. І. Петрашкевіча, П. С. Алейчыка, В. Ф. Дзярыбы, Б. С. Дуброўскай. Аб'ядноўвала ў 3 падп. групах, якія ўзначальвалі Матусевіч, Дзярыба, Дуброўская, 46 чал., у асн. рабочых і ваеннапалонных, што працавалі на з-дзе. Падпольшчыкі мелі 8 канспіратыўных кватэр, падтрымлівалі сувязь з партыз. брыгадамі 200-й імя К. К. Ракасоўскага, 1-й Мінскай, імя газеты «Праўда», «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага Мінскай вобл.. імя М. В. Фрунзе Вілейскай вобл. Патрыёты вывозілі са строю абсталяванне, інструменты і ваен. тэхніку на з-дзе, распаўсюджвалі лістоўкі і зводкі Саўінфармбюро сярод рабочых, ваеннапалонных і насельніцтва горада, дзяліліся з ваеннапалоннымі прадуктамі харчавання і вопраткай, памагалі ім уцякаць у партыз. атрады. Баявая дзейнасць падполля актывізавалася з ліп. 1942, калі акупанты арганізавалі на з-дзе рамонт танкаў і самаходных гармат. Патрыёты рабілі ўсё магчымае, каб зрываць тэрмін рамонту, праводзіць яго няякасна. Матусевіч і Гавіновіч восенню 1942 падпалілі аддзяленне мыцця матораў, у выніку згарэла 10 танкавых матораў і 10 каробак перадач; у пач. 1943 вывелі са строю каларыфер, які сілкаваў цяплом цэхі з-да. Падпольшчыкі перадавалі партызанам знойдзеныя на з-дзе, у падбітых танках зброю, боепрыпасы і медыкаменты. Атраду імя Суворава брыгады «Народныя мсціўцы» члены групы адправілі знятыя з танкаў 2 кулямёты. Інжынер К. А. Вестфаль, перакладчыца В. В. Кахомская, рабочыя Н. К. Хабенка і А. Грыгор'еў летам 1943 здабылі і перадалі партызанам тэхніч. і баявыя характарыстыкі самаходнай гарматы «Пантэра» і танка «Тыгр». З мая 1944, калі акупанты прыступілі да дэмантажу абсталявання на з-дзе, ім удалося адправіць у Германію ўсяго некалькі станкоў: Матусевіч, Гавіновіч і інш. псавалі іх, хавалі каштоўныя вузлы і дэталі. У ліст. — снеж. 1943 і ў лют.— маі 1944 гітлераўцы арыштавалі большасць падпольшчыкаў. Больш за 20 членаў падп. арг-цыі з-да пасля арышту былі вывезены гітлераўцамі ў канцэнтрацыйныя лагеры. *М. І. Эпалетаў.*

**Арганізацыя на фабрыцы імя Н. К. Крупскай і ў пасёлку Малая Серабранка** Мінскага раёна. Дзейнічала з лют. 1942 да ліп. 1944 пад кіраўніцтвам Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б. Аб'ядноўвала 21 чал. Узначальвалі арг-цыю камуніст М. П. Ананьін, С. К. Лапцэвіч (з мая 1943). Яе ядром з'яўляліся рабочыя і інж.-тэхн. работнікі ф-кі В. П. Герасімовіч, Я. Я. Іваноўскі, В. І. Казакоў, С. А. Лагуновіч, М. І. Лісаковіч, Н. Д. і М. П. Любезныя, А. М. Улашчык, А. Ф. і В. В. Хомічы, М. С. Ярашэвіч і інш.

Маючы 2 радыёпрыёмнікі на кватэрах М. А. Няхаева і Любезных, падпольшчыкі запісвалі зводкі Саўінфармбюро, размнажалі і распаўсюджвалі іх сярод рабочых ф-кі, завода «Бальшавік», насельніцтва горада. Яны зрывалі мерапрыемствы фаш. адміністрацыі, псавалі электраабсталяванне, станкі, швейныя машыны, парашуты і інш. прадукцыю ф-кі, выносілі з прадпрыемства скуры, аўчыны, цёплыя рэчы. Пераправілі партызанам атрада імя Варашылава 3-й Мінскай брыгады імя Будзённага, брыгады «Буравеснік», атрада імя Калініна больш за 100 кажухоў, столькі ж футравых безрукавак, некалькі соцень аўчын, шапак, рукавіц, 13 швейных машын, вял. коль-

касць медыкаментаў і перавязачнага матэрыялу. Збіралі зброю і боепрыпасы, перадалі партызанам 5 кулямётаў, каля 50 вінтовак, некалькі дзесяткаў гранат і тысячы патронаў. Рыхтавалі папаўненне для партыз. атрадаў, куды пераправілі 30 чал. з ліку сав. ваеннапалонных і цывільнага насельніцтва. Выратавалі ад вывазу ў гітлераўскую Германію каля 100 юнакоў і дзяўчат, якія пражывалі гал. чынам у пас. Малая Серабранка. Па заданню партыз. камандавання праводзілі разведвальную работу і збіралі звесткі аб прамысловых і ваен. аб'ектах праціўніка ў Мінску і яго ваколіцах, умацаваных пунктах на чыг. і шашэйных дарогах Мінск — Барысаў, Мінск — Баранавічы. Ажыццявілі шэраг дыверсій, у т. л. ўзарвалі плаціну на р. Свіслач. *Л. В. Аржаева.*

**Арганізацыя на цагельных заводах.** Дзейнічала з ліп. 1941 да ліп. 1944 пад кіраўніцтвам Кастрычніцкага падп. райкома (у маі — вер. 1942) і Мінскага падп. гаркома КП(б)Б. Створана па ініцыятыве камуністаў М. К. Каржанеўскага і М. І. Зехава. Аб'ядноўвала 16 чал., у асн. рабочых і служачых з-даў. Кіраўнікі Р. Ф. Валынец (на з-дах № 1 і 4), Зехаў (№ 2 і 3). Мела сувязь з партыз. атрадамі «За Айчыну» брыгады «Штурмавая», «Мсцівец», імя Р. І. Катоўскага, імя П. К. Панамарэнкі брыгады «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага, спецатрадам «Мясцовыя» Мінскай вобл. і асобным атрадам П. А. Алыбіна Баранавіцкай вобл., рэгулярна забяспечвала іх разведданымі. З жн. 1941 узаемадзейнічала з падполлем на плодаагародніннных базах № 1 і № 2. Падпольшчыкі ўстанавілі ў падвале воданапорнай вежы з-да № 1 радыёпрыёмнік, прымалі зводкі Саўінфармбюро, перапісвалі і распаўсюджвалі іх, а таксама лістоўкі з перakазам выступлення І. В. Сталіна 3.7.1941 сярод рабочых і ваеннапалонных. З кастр. 1941 праводзілі дыверсіі на з-дах: выводзілі са строю прэсы, печы, сушыльныя агрэгаты, што рэзка знізіла выпуск цэглы, зрабілі ўзрыў у казармах фаш. салдат. Арганізоўвалі ўцёкі ваеннапалонных з заводскіх лагераў, забяспечвалі іх адзеннем, абуткам і дакументамі, выводзілі да партызан. Пры садзейнні падпольшчыкаў плодаагародніннных баз № 1 і № 2 дасталялі партызанам зброю, боепрыпасы, медыкаменты, соль. Шастакоў, працуючы ўрачом і карыстаючыся магчымасцю наведваць інш. заводы, каардынаваў дзейнасць падпольшчыкаў; бываючы ў прыгарадных вёсках Калядзічы і Сенніца, лячыў параненых чырвонаармейцаў, партызан і насельніцтва, распаўсюджваў лістоўкі. *А. Дз. Сакевіч.*

**Арганізацыя Руткоўскага І. С.** Дзейнічала з жн. 1941 да чэрв. 1943 на Грушаўскім пасёлку, мэблевай і тытунёвай ф-ках пад кіраўніцтвам Мінскага падп. гаркома КП(б)Б. Створана па ініцыятыве І. П. Казака. Аб'ядноўвала 23 чал., у т. л. 6 камуністаў. Кіраўнік І. С. Руткоўскі. Члены арг-цыі падтрымлівалі сувязь з партыз. брыгадамі «Жалязняк», «Народныя мсціўцы» Мінскай вобл. і інш., удзельнічалі ў стварэнні партыз. атрада 620-га (пазней імя І. П. Кузняцова *партызанскай брыгады імя В. П. Чкалава*), для якога падпольшчыкі Руткоўскі, С. П. Крук, Г. В. Крук, В. Дз. Сантоцкая, Л. Ф. Карака, А. У. Лугоўскі рыхтавалі базу, збіралі зброю, боепрыпасы, адзенне, медыкаменты. М. І. Спірын, М. Я. Мыснік, Руткоўскі і інш. вывелі ў гэты атрад больш за 60 былых ваеннапалонных. А. Г. Жалабковіч, К. Ф. Цышкевіч, Руткоўскі забяспечвалі партызан махоркай і тытунём, Г. М. Гарбанёў, М. Квач, Мыснік — медыкаментамі. Зімой 1941—42 А. Жарыкаў, Спірын, І. Н. Стральцоў, І. Б. Шылаў, Андрэй (прозвішча не ўстаноўлена) замарозілі абагравальную сістэму, спалілі лазню, знішчылі запасы агародніны на складзе ням. шпіталя. Па заданню М. І. Талкачова Карака і Я. Р. Зубчонак вялі работу па разлажэнню варожых фарміраванняў. Толькі ў лют. 1943 з дапамогай Жалабковіча і Ф. М. Малахава да партызан было выведзена больш як 40 б. паліцэйскіх са зброяй. Члены арг-цыі распаўсюджвалі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, газ. «Звязда», здабывалі шрыфт. Да чэрв. 1943 большасць падпольшчыкаў, каб пазбегнуць правалу, пайшла да партызан. Г. В. Крук, С. П. Крук, А. М. Кобак, Я. М. Стульба і Цышкевіч засталіся ў горадзе і сталі сувязнымі партызан. Іх кватэры былі канспіратыўнымі. *У. І. Гуленка.*

**Ваенны савет партызанскага руху (ВСПР).** Дзейнічаў з вер. 1941 да сак. 1942 у Мінску, з снеж. ў цесным кантакце з Мінскім падп. гаркомам КП(б)Б. Аб'ядноўваў да пач. 1942 больш за 300 чал., каля 60 % з іх — камуністы і камсамольцы. У ВСПР уваходзілі сав. ваеннаслужачыя, якія не выйшлі з акружэння або ўцяклі з палону, мясцовыя патрыёты. Камандзіры Чырв. Арміі: К. А. Арцюшын, А. П. Бялоў, С. Ф. Гарнастаеў, В. Ф. Голіцаў, В. М. Дружынін, М. І. Іваноў, Г. А. Ігнатовіч, І. К. Кабушкін, Дз. І. Копанеў, Ц. Ф. Кудзінаў, П. І. Ларын, С. Г. Макаранка, Л. В. Мантурэвіч, А. С. Марозаў, У. І. Нічыпаровіч, А. Ф. Сакалоў, І. Дз. Сёмін, С. С. Скобліказ, Г. І. Сомік, Я. У. Чумакоў, В. І. Яськоў. Палітработнікі: В. М. Бачароў, М. Н. Бурцаў, Б. Р. Бывалы, С. В. Дубянцоў, І. Р. Іваноў, А. П. Макаранка, А. В. Чарненка і інш. Пагранічнікі і супрацоўнікі НКУС: В. М. Айрапетаў, Г. В. Глухаў, Н. П. Іваноў, А. В. Нікіцін і інш. Сав. патрыёты з мясцовага насельніцтва: Г. А. Адамовіч, І. А. Адамовіч, У. І. Адынец, П. С. Алейчык, А. А. Арндт, А. Ф. Арндт, Л. С. Бараноўскі, Р. М. Бромберг, Г. М. Бушмакін, М. П. Герасімовіч, Л. Ф. Густарнік, Л. Д. Драгун-Пастрэвіч, В. А. Салаўянчык, Г. В. Фінская і інш. Кіравала ВСПР ваен. тройка — старшыня, яго нам. і нач. штаба. Штаб меў 10 аддзелаў: аператыўны (нач. М. І. Іваноў), агітацыі і прапаганды (М. І. Талкачоў), інфармацыі (Я. К. Гарыца), разведвальны (М. М. Нікіцін), гасп. (П. П. Суравягін), фінансавы (А. М. Чыжык), кадраў (М. Южакоў), заградаў (І. М. Вярбіцкі), санітарны (Ягорскі), сувязі. Гал. задача — стварэнне партыз. атрадаў у ваколіцах Мінска, забеспячэнне іх зброяй, умацаванне камандным кадрамі, каардынацыя баявых дзеянняў. З удзелам ВСПР утвораны партыз. атрады «Бальшавік», «Штурм», імя І. В. Сталіна, імя С. М. Будзённага, імя В. І. Чапаева, «Мсцівец», 208-ы імя І. В. Сталіна, атрады капітана М. М. Нікіціна і інш. ВСПР устанавіў сувязь з партыз. атрадамі, якія дзейнічалі ў Лагойскім, Заслаўскім, Дзяржынскім, Плешчаніцкім, Рудзенскім р-нах, накіроўваў туды камандзіраў і палітработнікаў. Члены арг-цыі валодалі ваеннымі ведамі і вопытам, таму многія занялі ў партызанах камандныя пасады. Толькі па загаду ВСПР ад 14.10. 1941 на іх былі прызначаны 16 афіцэраў: лейт. Голіцаў — камандзірам атрада імя М. І. Кутузава, потым нам. камандзіра партыз. брыгады 19-й імя В. М. Молатава, ст. лейт. Копанеў — нач. штаба атрада «Мсцівец», з жн. 1942 — брыгады «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага і інш. ВСПР неаднойчы накіроўваў партызанам папаўненне. У атрад «Мсцівец», які дзейнічаў у Лагойскім і Плешчаніцкім р-нах, паслана некалькі груп па 10—15 чал., у лютым накіравана больш як 20 байцоў і камандзіраў, у т. л. маёр Чумакоў, ст. лейт. Сакалоў, Марозаў і інш. У атрад № 208 накіравана каля 100 чал. У атрады капітана А. Дз. Сяргеева і М. П. Пакроўскага ў канцы 1941 адпраўлена вял. група папаўнення, у якой былі ст. палітрук М. Н. Бурцаў, батальённы камісар Бывалы, палкоўнікі Нічыпаровіч, Айрапетаў, маёры Кудзінаў, Дружынін, Рабышаў, капітаны Арцюшын, В. Н. Бурцаў. ВСПР вёў работу па вызваленню ваеннапалонных, забеспячэнню іх дакументамі, адзеннем; збіраў зброю, боепрыпасы і інш. Толькі ў 1-й пал. лют. 1942 разам з падп. гаркомам КП(б)Б ён перадаў партыз. атраду № 208 скрынку ручных гранат, пішучую машынку, паперу для пісьма і капіравальную, лістоўкі, шмат цёплай вопраткі. Драгун-Пастрэвіч, Салаўянчык і інш. забяспечвалі падпольшчыкаў дакументамі, працыскай. Яны здабылі для ваеннапалонных больш за 200 бланкаў пашпартоў. Драгун-Пастрэвіч праз супрацоўніка гідраметцэнтра А. Зайцава атрымала і перадала ў атрад № 208 сто тапаграфічных карт абласцей Беларусі і планы Мінска з нанесенымі на іх ваен. аб'ектамі. Вялікую работу правёў ВСПР па падрыхтоўцы ўзброенага выступлення ваеннапалонных у лагерах горада, якое не адбылося з-за правалу. На тэр. лагераў была схавана зброя. Назначанае на 4.1.1942 выступленне павінны былі падтрымаць падпольшчыкі Мінска і партыз. атрады, якія дзейнічалі вакол горада. Канспіратыўныя кватэры ВСПР трымалі І. А. Адамовіч, Алейчык, Адынец, Г. І. Бушмакін, М. П. Герасімовіч, Драгун-Пастрэвіч, В. Ізох, А. Г. Нікіфарава, А. А. Парнікель, З. Д. Рыбакоў, Салаўянчык, В. К. Смірнова, І. І. Фамлюк, А. І. Яцэвіч. На кватэры Ф. Д. Шэлепень (вул. Надзеждзінская, 18) размяшчалася друкарня ВСПР, дзе друкаваліся лістоўкі і перыядычны лісток *«Вестник Родины»*. Нягледзячы на шэраг правалаў, ВСПР працягваў дапускаць сур'ёзныя парушэнні канспірацыі: выдаваў пісьмовыя распараджэнні, наладжваў дзяжурствы ў штабе. Многія члены арг-цыі ведалі адзін аднаго, клічкі, паролі. Гэта аблегчыла варожай контрразведцы магчымасць пранікнуць у ВСПР і да канца сак. 1942 раскрыць арг-цыю. Многія яе актыўныя члены былі арыштаваны гітлераўцамі і 7.5.1942 пакараны смерцю. Кабушкін, Копанеў, М. М. Нікіцін, Нічыпаровіч, Чыжык і інш. патрыёты працягвалі барацьбу супраць ням. фаш. захопнікаў у саставе іншых падпольных арг-цый і груп Мінска або ў радах партызан. *М. І. Эпалетаў.*

**Група «Вера».** Дзейнічала з жн. 1941 да ліст. 1943. Арганізатар і кіраўнік — камуніст А. Ф. Апацкі (былы заг. гаспадаркі гар. АТС). Аб'ядноўвала 8 чал. Падпольшчыкі хавалі на сваіх кватэрах параненых чырвонаармейцаў, уладкоўвалі іх на лячэнне ў 2-ю сав. бальніцу, забяспечвалі неабходнымі дакументамі і перапраўлялі да партызан. Па радыёпрыёмніку прымалі зводкі Саўінфармбюро, перапісвалі і распаўсюджвалі іх сярод насельніцтва. Здабывалі ў гар.

управе, на біржы працы і прадпрыемствах горада ням. пропускі, харчовыя карткі, разведданыя аб праціўніку і перадавалі ў *партызанскі атрад «Мсцівец»*. У нач. 1942 члены групы неправавілі партызанам 2 скрынкі патронаў, 13 вінтовак, 9 аўтаматаў, гранаты, ваен. карты, компасы і інш. *А. М. Літвін.*

**Група Зайцава М. П.** Дзейнічала з вер. 1941 да студз. 1944 пад кіраўніцтвам Мінскага падп. гаркома КП(б)Б. Аб'ядноўвала 16 чал. Арганізатар і кіраўнік — удзельнік грамадз. вайны камуніст М. П. Зайцаў (б. галоўурач гар. ветлячэбніцы). Падпольшчыкі Зайцаў, І. П. Бондараў, Т. С. Мазалеўская, М. Н. Пенкрат, Дз. І. і І. І. Стрэчань, А. С. Хацько збіралі зброю, боепрыпасы, адзенне, прадукты, вызвалялі сав. ваеннапалонных з лагераў і выводзілі іх з горада. У канцы вер. 1941 з дапамогай падпольшчыц М. Ф. Даўгаланцевай і Н. І. Стрэчань Зайцаў наладзіў сувязь з І. К. *Кабушкіным* і В. І. Сайчыкам, праз іх — з групай, пазней з партыз. атрадам У. І. *Нічыпаровіча* (гл. ў арт. *Партызанскі полк 208-ы імя І. В. Сталіна*). Група мела кантакт з дзеючымі ў горадзе падп. групамі А. Я. Ядрэўскага, І. І. Яцэвіча, Самахвалавіцкай падп. групай, якія забяспечвалі сувязь з партыз. брыгадамі «Дзядзькі Колі», 3-й Мінскай імя Будзённага, «Штурмавая» Мінскай вобл. Падпольшчыкі перапраўлялі партызанам вывезеныя Зайцавым з ветэрынарнай аптэкі медыкаменты і перавязачныя матэрыялы, збіралі разведданыя аб праціўніку. Па радыёпрыёмніку, устаноўленаму на кватэры Пенкрата, прымалі зводкі Саўінфармбюро і распаўсюджвалі іх разам з выданнямі падп. гаркома сярод насельніцтва.

*А. М. Літвін.*

**Група Клімука В. З.** Дзейнічала з жн. 1941 да кастр. 1943 пад кіраўніцтвам Мінскага падп. гаркома КП(б)Б у інфекцыйнай бальніцы. Аб'ядноўвала 16 чал., у т. л. 5 камуністаў і 3 камсамольцаў. Арганізатар і кіраўнік камуніст В. З. Клімук («Бедны»). Падпольшчыкі наладзілі сувязь з партыз. брыгадамі «Дзядзькі Колі», «Штурмавая» Мінскай вобл., спецатрадам ЦШПР і БШПР пад камандаваннем С. І. Казанцава. Месцам яўкі падпольшчыкаў і партызан з'яўлялася кватэра Клімука, дзе быў устаноўлены радыёпрыёмнік і прымаліся зводкі Саўінфармбюро. Члены групы распаўсюджвалі сярод насельніцтва лістоўкі, падп. газ. «Звязда». Клімук і Б. С. Чэрнікаў далучалі сав. грамадзян да падп. барацьбы, уладкоўвалі іх на працу ў розныя арг-цыі на прадпрыемствы горада, забяспечвалі падпольшчыкаў пашпартамі, пропускамі і інш. дакументамі. П. І. Шэнец (шафёр бальніцы) па заданню Клімука вывез у партыз. брыгаду «Штурмавая» бормашыну, здабытую ў 3-й бальніцы, медыкаменты, хірургічны інструмент, якія Клімук атрымліваў ад В. У. Міцьковай (заг. аптэкі бальніцы). У Міцьковай у аптэцы захоўваліся лістоўкі, бланкі пашпартоў. У кастр. 1943 пры падрыхтоўцы ўзрыву вадапомпавай станцыі ў пас. Навінкі Мінскага р-на Б. І. Грынкевіч, М. А. Гуд, В. З. Клімук, І. М. Сіткевіч схоплены гітлераўцамі і павешаны.

*А. М. Літвін.*

**Група Маркава (Пагодзіна) І. Х.** Дзейнічала пад кіраўніцтвам Мінскага падп. гаркома КП(б)Б і Лагойскага падп. райкома КП(б)Б з ліст. 1941 да крас. 1944 на Мінскім чыг. вузле, з-дах імя Варашылава, імя Мяснікова, «Бальшавік», ЦЭЦ-2, аэрадроме, у 1-й клінічнай і чыг. бальніцах, інш. аб'ектах ворага. У яе састаў уваходзіла каля 30 чал., у т. л. А. І. і А. С. Загорскія, З. Дз. Ільюшкіна, А. В. і А. М. Караньковы, В. Х. і Т. Х. Маркавы, М. С. Махнач, А. М. Пазнякова, І. І. Працкевіч, А. С. Саковіч, А. І. Салаўёў, Л. С. Сураўіцкая і інш. Кіраўнікі І. Х. Маркаў (да снеж. 1943), В. І. Дашкевіч. Канспіратыўныя кватэры трымалі А. В. і З. А. Караньковы, С. І. і Я. І. Данілеўскія, А. І. Загорская, Махнач і інш. Падпольшчыкі гал. чынам вялі разведку руху варожых эшалонаў праз Мінск і абарончых умацаванняў вакол горада. Асабліва рэзультатыўнай стала іх дзейнасць з канца 1942, калі была ўстаноўлена сувязь з ням. антыфашыстам Г. Штрубэ, які працаваў нач. канцылярыі дырэкцыі чыгункі «Мінск». Штрубэ дастаўляў на адну з канспіратыўных кватэр справаздачы аб руху воінскіх эшалонаў, колькасці гітлераўцаў, якіх везлі на фронт, баявой тэхнікі, гаручага, новых зенітных установках у раёнах вакзала, раскватараванні ў Мінску і вакол яго ням. вайсковых часцей. У іх таксама была аператыўная інфармацыя аб дыверсіях партызан, сав. патрыётаў на падведамасных дырэкцыі чыг. магістралях, інш. чыгунках Беларусі. Падпольшчыкі З. А. Андрыянава і З. А. Каранькова пераводзілі атрыманыя ад Г. Штрубэ разведданыя на рус. мову і праз В. Х. Маркаву перадавалі кіраўніку групы І. Х. Маркаву, які пераправаляў іх Лагойскаму райкому КП(б)Б. На працягу 1942—43 у райком партыі паступіла ад групы больш за 100 разведзводак, якія мелі 320 данясенняў і паведамленняў. Многія з іх былі перададзены па радыёсувязі за лінію фронту. Падпольшчыкі наносілі праціўніку і матэрыяльныя страты. Восенню 1943 А. М. Пазнякова і М. М. Пазняк вывелі са строю 9 ваен. аўтамашын у прыгараднай вёсцы Пятроўшчына, пазней падпалілі гараж і майстэрню, у выніку згарэла яшчэ 6 аўтамашын, 2 прычэпы, шмат розных інструментаў. У 1942—43 І. І. Працкевіч і М. Р. Пазняк знішчылі 150 т зерня, прызначанага для адпраўкі ў Германію. *Л. В. Аржаева.*

**Група на вагонарамонтным заводзе імя А. Ф. Мяснікова.** Дзейнічала з вер. 1941 да вер. 1943. Арганізатар і кіраўнік Г. М. Красніцкі. У ліку першых у яе ўвайшлі рабочыя І. А. Віславух, В. С. Глінскі, Г. І. Глінская-Кірачак, Г. М. Падабед. Да канца 1942 аб'ядноўвала 10 чал., у т. л. 3 камуністаў, 2 камсамольцаў, 5 беспарт. патрыётаў. У барацьбу супраць акупантаў уключыліся інжынер Б. П. Велімовіч, рабочыя Б. А. Манькоўскі, С. С. Пісарчык, Л. П. Сумарава і інш. Група мела некалькі канспіратыўных кватэр. На адной з іх быў устаноўлены радыёпрыёмнік. Падпольшчыкі прымалі, размнажалі і распаўсюджвалі сярод рабочых з-да і насельніцтва бліжэйшых вуліц зводкі Саўінфармбюро. Члены групы разам з інш. рабочымі зрывалі мерапрыемствы акупацыйнай адміністрацыі завода, выраблялі дэфектыўныя і псавалі гатовыя дэталі і інструменты, парушалі тэхналогію зборкі вузлоў і агрэгатаў. У вер. 1942 падпольшчыкі наладзілі сувязь з *партызанскім атрадам «Мясцовыя»*, па заданню якога збіралі разведданыя аб ваен. гарнізоне і рухомым саставе праціўніка ў Мінску, учынялі дыверсіі. Камандаванне атрада разам з кіраўніком групы распрацавала аперацыю па падрыву каштоўных станкоў на з-дзе, якую 1.7.1943 правялі Віславух, Глінскі, Красніцкі і Падабед. Магутным узрывам былі выведзены са строю 3 станкі і інш. абсталяванне, пашкоджана памяшканне калёснага цэха. 16.9.1943 Манькоўскі падлажыў міну ў паравы кацёл 2-й кацельні з-да і больш як на месяц вывеў яго са строю. Пасля гэтых дыверсій большасць членаў падп. групы пайшла ў партыз. атрад «Мясцовыя». Гл. таксама групы на вагонарамонтным заводзе імя А. Ф. Мяснікова ў арт. *Мінскае камсамольска-маладзёжнае падполле.* *Л. В. Аржаева.*

**Група на мэблевай фабрыцы.** Дзейнічала з ліст. 1941 да мая 1943 пад кіраўніцтвам Мінскага падп. гаркома КП(б)Б, Варашылаўскага падп. РК КП(б)Б г. Мінска (у маі — вер. 1942). Створана па ініцыятыве Л. Я. Адзінцова і К. І. *Хмялеўскага.* Аб'ядноўвала 5 чал. Кіраўнік камуніст І. І. Драздоўскі. Падпольшчыкі мелі сувязь з камандаваннем партыз. брыгады 18-й імя Фрунзе Баранавіцкай вобл. Члены групы распаўсюджвалі сярод рабочых ф-кі і насельніцтва горада зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі, газеты, здабывалі і перапраўлялі партызанам зброю, боепрыпасы, адзенне, медыкаменты, прадукты і інш. А. І. Івінскі, М. А. Самадахаў, І. Ц. Чурсін падбіралі людзей для адпраўкі да партызан, Драздоўскі і кіраўнік падп. групы настаўнікаў В. П. Александроўская забяспечвалі іх адзеннем, дакументамі і перапраўлялі ў партыз. атрады. Усяго падпольшчыкі вывелі з горада больш за 40 сав. грамадзян. Па ініцыятыве Драздоўскага была створана падп. група па складзе бухгалтарскіх бланкаў. *А. М. Літвін.*

**Група на складзе бухгалтарскіх бланкаў.** Дзейнічала з ліст. 1941 да студз. 1944 пад кіраўніцтвам Мінскага падп. гаркома КП(б)Б. Створана па ініцыятыве камуніста І. І. Драздоўскага. Аб'ядноўвала 5 чал. Кіраўнік камуніст П. К. Кобля (бухгалтар склада). З 1942 падпольшчыкі М. І. Гладкі, Кобля, С. А. Хвяжэнка падтрымлівалі сувязь з партыз. брыгадамі «Штурмавая» Мінскай, 18-я імя Фрунзе Баранавіцкай абл., Лагойскім падп. РК КП(б)Б. Члены групы праз кіраўніка падп. групы настаўнікаў В. П. Александроўскую перапраўлялі партызанам зброю, медыкаменты, адзенне, пісчую і капіравальную паперу, сабраныя ў фонд абароны грошы. У студз. 1944 Н. С. і П. К. Коблі арыштаваны і вывезены на катаржныя работы ў Германію. *А. М. Літвін.*

**Група настаўнікаў.** Дзейнічала з ліст. 1942 да ліп. 1944 пад кіраўніцтвам камандавання *партызанскай брыгады 18-й імя М. В. Фрунзе* Баранавіцкай вобл. Аб'ядноўвала 11 чал., у асн. настаўнікаў і вучняў 46-й Мінскай школы. Кіраўнік — настаўніца В. П. Александроўская. Падпольшчыкі здабывалі разведданыя аб праціўніку, перапраўлялі да партызан сав. грамадзян, у т. л. былых ваеннапалонных, а таксама зброю, боепрыпасы, адзенне, прадукты, паперу, перадалі больш за 76 тыс. руб., сабраных у фонд абароны. Па радыёпрыёмніку, які захоўваўся на кватэры М. Р. Кірыка, члены групы прымалі зводкі Саўінфармбюро, размнажалі іх і распаўсюджвалі сярод насельніцтва. Працуючы ў абласной управе, Кірык забяспечваў І. І. Драздоўскага і Александроўскую бланкамі пропускаў, інш. ням. дакументамі.

*А. М. Літвін.*

**Група Пуцылы У. К.** Дзейнічала з вер. 1943 да ліп. 1944 на грабянёвай ф-цы і хлебазаводзе № 1. Створана па заданню Рудзенскага падп. РК КП(б)Б. Аб'ядноўвала 7 чал. Арганізатар і кіраўнік

камуніст У. К. Пуцыла («Анюцін»), працаваў кладаўшчыком на ф-цы. Выконвала заданні партыз. атрада «Беларусь» аднайменнай брыгады Мінскай вобл. па разведцы ваен. аб'ектаў акупантаў. Пры садзейнічанні Г. А. Мускага члены групы здабылі і перазнялі план Мінска, нанеслі на яго ваен. аб'екты гітлераўцаў і праз Л. Дз. Казючыц («Чарнова») перадалі план партызанам. Падпольшчыкі распаўсюджвалі сярод насельніцтва горада сав. газеты і лістоўкі, учынялі дыверсіі. М. С. Драчоў («Марцін») вывеў са строю электраматор на хлебазаводзе, Пуцыла разам з інш. членамі групы пашкодзіў 7 з 13 аўтаматычных машын па пашыву армейскага абутку і інш. З дапамогай падпольшчыка М. М. Ланеўскага (дырэктар ф-кі) Пуцыла рэалізоўваў на рынку яе прадукцыю, а грошы перадаваў партызанам. Падпольшчыкі пераправілі партызанам медыкаментаў на суму каля 12 тыс. руб., больш за 3 тыс. ням. марак, частку прадукцыі ф-кі, фотаапарат. Перад вызваленнем горада Чырв. Арміяй вялі назіранне за мініраваннем адступаючым ворагам прамысловых і адм. будынкаў, перашкаджалі вывазу і знішчэнню маёмасці ф-кі і хлебазавода.

*А. М. Літвін.*

**Група Труса К. І. і Шчарбацэвіч В. Ф.** Дзейнічала з жн. 1941. Аб'ядноўвала каля 10 чал., у т. л. 3 камуністаў. Ратуючы з палону параненых камандзіраў Чырв. Арміі члены групы перадалі ў лазарэт для ваеннапалонных бланкі пашпартоў, фотаапарат, хімрэактывы і паперу для вырабу фатаграфій, адрасы канспіратыўных кватэр. Афіцэраў, якія выйшлі з лазарэта, хавалі, кармілі, забяспечвалі цывільнай вопраткай і перапраўлялі да партызан. На кватэры В. Ф. Шчарбацэвіч захоўвалася зброя, боепрыпасы, медыкаменты. 14.10.1941 гітлераўцы арыштавалі членаў групы і пасля катаванняў 26.10.1941 павесілі на вуліцах і плошчах горада. *М. І. Эпалетаў.*

**Групы на плодаагароднінных базах № 1 і № 2.** Дзейнічалі пад кіраўніцтвам Мінскага падп. гаркома КП(б)Б, Кастрычніцкага падп. райкома КП(б)Б г. Мінска (у маі — вер. 1942). Створаны па ініцыятыве камуністаў М. К. *Каржанеўскага*, К. І. Хмялеўскага, У. С. Шыловіча, І. І. Яцэвіча і інш.

Група Каржанеўскага М. К. і Кудрыцкага А. І. на плодаагародніннай базе № 1. Дзейнічала з ліп. 1941 да кастр. 1943. Аб'ядноўвала 12 чал., у т. л. А. М. Багалейшу, Г. С. Гардзейчыка, М. К. Каржанеўскага (кіраўнік да кастр. 1942), З. К. і А. В. Каржанеўскіх, А. І. Кудрыцкага (кіраўнік з кастр. 1942), М. К. Кудрыцкую (Арлоўскую), І. К. Юрлевіча і інш. Члены групы забяспечвалі прадуктамі і соллю партызан Заслаўскага, Лагойскага, Мінскага, Рудзенскага і інш. р-наў, дапамагалі прадуктамі падпольшчыкам, галадаючым дзецям, сем'ям ваеннаслужачых, пераправілі ў партыз. атрады 40 сав. грамадзян, у асн. былых ваеннапалонных, вялі прапагандысцкую работу сярод насельніцтва горада, разам з падпольшчыкамі інш. груп падпалілі склад з гаручым, гараж, 3 вагоны з амуніцыяй. Падтрымлівалі сувязь з падп. групай А. Ф. Арндта з гаража гар. управы, пры садзеянні якой на аўтамашынах вывозілі прадукты, соль, зброю, медыкаменты партызанам.

Група Раманоўскага М. Т. на плодаагародніннай базе № 1. Дзейнічала з крас. 1942 да ліп. 1944. Аб'ядноўвала 8 чал., у т. л. Ю. І. Ласоўскага, М. М. Арлова, І. Б. Трацэўскага і інш. У жн. 1943 у састаў групы ўвайшла прыбыўшая з-за лініі фронту радыстка В. І. Сасноўская («Таня»). Падпольшчыкі збіралі разведданыя аб праціўніку і перадавалі іх партызанам, забяспечвалі надзейнасць работы радысткі і рацыі, якая была ўстаноўлена ў тайніку ў сховішчы для гародніны. У ходзе *Мінскай аперацыі 1944* Сасноўская рэгулярна паведамляла па рацыі сав. камандаванню пра становішча ў горадзе.

Група Яцэвіча І. І. на плодаагародніннай базе № 2. Дзейнічала з жн. 1941 да жн. 1943. Аб'ядноўвала 13 чал. Ядром групы з'яўляліся рабочыя В. В. Аглазінскі, Н. І. Бараноўскі, Ф. В. Брандт, М. В. Тарасік, Г. У. Шыловіч і інш. Падпольшчыкі сабралі на месцах баёў 1941 больш за 30 вінтовак, 2 кулямёты і перадалі іх партызанам, парушалі тэлефонна-тэлеграфную сувязь праціўніка, прыводзілі ў непрыгоднасць агародніну, якая адпраўлялася ў ням. вайсковыя часці. Дзейнасць групы ўзмацнілася пасля сустрэчы Яцэвіча з Каржанеўскім. Падпольшчыкі атрымлівалі ад Каржанеўскага падп. газ. *«Звязда»*, зводкі Саўінфармбюро, вялі прапаганду і агітацыю сярод рабочых базы і насельніцтва горада, удзельнічалі ў аперацыях па вызваленню ваеннапалонных, забяспечвалі іх адзеннем, дакументамі, зброяй і перапраўлялі да партызан. У 1943 група накіравала ў партыз. брыгаду «Жалязняк» Мінскай вобл. і атрады, якія дзейнічалі ў Лагойскім р-не, 43 чал. Разам з імі пайшлі падпольшчыкі Аглазінскі, А. І. Блажэвіч, М. І. Ігнатовіч, Шыловіч. Па заданню партыз. камандавання яны неаднаразова прыходзілі ў горад, сустракаліся з Яцэвічам, перадавалі падпольшчыкам узрыўчатку і міны для дыверсій, з Мінска прыносілі разведданыя, сав. грошы, аблігацыі дзяржпазык. У жн. 1943 Яцэвіч і інш. члены групы арыштаваны гітлераўцамі

*Л. В. Аржаева.*

**Групы на хіміка-фармацэўтычным заводзе.** Дзейнічалі з вер. 1941 да сак. 1944 пад кіраўніцтвам Мінскага падп. гаркома КП(б)Б і Кастрычніцкага падп. райкома КП(б)Б г. Мінска (у маі — вер. 1942). Налічвалі 31 чал., у асн. рабочых завода, 2 групы.

Група Вяржбіцкай В. Я. Аб'ядноўвала 16 чал., у т. л. ветэранаў завода А. А. Арцішэўскую, З. С. Гарановіч, М. А. Карчынскую, В. У. Кавецкую, В. В. Навіцкую, С. С. Шчаўлюк, М. І. Шчэрбіч і інш. Падпольшчыкі зрывалі вытворчасць медыкаментаў для гітлераўцаў, парушалі састаў кампанентаў лякарстваў, псавалі абсталяванне. Вынесеныя з з-да медыкаменты і перавязачныя матэрыялы для партызан яны накоплівалі на кватэрах Вяржбіцкай, К. С. Камінскай, Карчынскай і адпраўлялі партызанам праз падпольшчыц камуністку Л. С. Аляшкевіч, Шчэрбіч, партыз. сувязных А. Н. Дорагава, Е. Р. Літвінаву, А. Ф. Лойка і інш.

Група Асядоўскага П. П. (працаваў у ахове завода). Аб'ядноўвала 15 чалавек. У групе актыўна дзейнічала сям'я камуніста Я. М. Мілінкевіча, які працаваў на дрожджава-патачным з-дзе, знаходзіўся там у падп. арг-цыі і падтрымліваў сувязь з падпольшчыкамі хімфармзавода. Яго жонка С. А. Мілінкевіч і дачка Аляксандра, што працавалі на хімфармзаводзе, выносілі медыкаменты, дочкі Тамара і Рэгіна памагалі дастаўляць іх у тайнік у кватэры Мілінкевічаў. Медыкаменты хавалі і на кватэры А. М. Валодзінай. У час начных дзяжурстваў Асядоўскі падбіраў ключы і пранікаў на склады гатовай прадукцыі, браў асоба дэфіцытныя лякарствы. Ён і ахоўнік П. Л. Мухамораў, звязаны з Вяржбіцкай і Кавецкай, памагалі падпольшчыцам выносіць лякарствы з з-да, папярэджвалі пра небяспеку. Сустрэчу з сувязнымі партыз. атрадаў Асядоўскі наладжваў з дапамогай падпольшчыка камуніста С. Д. Стрыгалева, які трымаў на Суражскім рынку ларок, што служыў месцам явак. Шмат медыкаментаў перадалі партызанам падпольшчыкі С. М. і Т. А. Сямёнавы. Праз урача чыг. бальніцы М. М. Спірыдонава была наладжана сувязь з падполлем чыг. вузла. Праз Навіцкую атрымлівалі медыкаменты для партызан падпольшчыкі завода імя Варашылава. В. А. Грановіч праз П. Я. Кудраўцава трымала сувязь з падполлем на радыёзаводзе, праз М. Я. Бакуновіч і І. Боўта — з падполлем на малочным з-дзе, мясакамбінаце і інш. Падпольшчыкі хімфармзавода забяспечвалі медыкаментамі і перавязачнымі матэрыяламі 11 партыз. атрадаў 2-й і 3-й Мінскіх, «Беларусь», «Буравеснік», «Дзядзькі Колі», «Народныя мсціўцы» Мінскай, імя Ракасоўскага Баранавіцкай, імя Фрунзе Вілейскай абл.

У канцы 1943 гітлераўцы арыштавалі Вяржбіцкую, Асядоўскага, Валодзіну, Кавецкую, Навіцкую, Л. Паўлыга, Спірыдонава, К. Сушчэню, Н. Трафіменка, Шчаўлюк, Шчэрбіч. *А. Дз. Сакевіч.*

**Групы на ЦЭЦ-2.** Дзейнічалі пад кіраўніцтвам Мінскага падп. гаркома КП(б)Б. Налічвалі 38 чал.

Група Яраслаўцава М. І. Дзейнічала са жн. 1941 да мая 1942. Створана па ініцыятыве і пры дапамозе У. С. Амельянюка. Аб'ядноўвала 20 чал., у асн. былых работнікаў электрастанцыі і ваеннапалонных, палавіна іх — камуністы. Я. П. Ляхаў, А. Я. Макееў, М. Ф. Мельнікаў, М. П. Смірноў, А. І. Сямёнаў, К. Ф. Шашкін і інш. былі звязаны з падп. арг-цыяй Ваенны савет партыз. руху (ВСПР), пазней сталі кіраўнікамі партыз. атрадаў, брыгад. Падпольшчыкі прымалі па радыё зводкі Саўінфармбюро, перадрукоўвалі іх на машынцы і распаўсюджвалі сярод рабочых электрастанцыі, у горадзе. У 1942 А. І. Гаўрыш, Ляхаў, Ф. Ф. Смірноў, Я. С. Харашаеў, Шашкін і інш. пад кіраўніцтвам Яраслаўцава падрыхтавалі і правялі на ЦЭЦ некалькі дыверсій: у студз. падарвалі вадапомпавую станцыю, у выніку чаго на 4 сутак вывелі са строю электрастанцыю; у лютым падарвалі адзін з катлоў электрастанцыі. У сак. яны сапсавалі прылады гал. пульта ўпраўлення ЦЭЦ. Спрабуючы знайсці ўдзельнікаў дыверсій, гітлераўцы на працягу 3 дзён дапытвалі і катавалі рабочых электрастанцыі, у т. л. членаў падп. групы. Пад пагрозай правалу падпольшчыкі пайшлі ў партыз. атрад імя Сталіна.

Група Гняўко Дз. Р. Дзейнічала з вер. 1941 да 3.7.1944. Аб'ядноўвала 18 чал. — слесараў, электраманцёраў і інш. Узаемадзейнічала з партыз. атрадам «Мясцовыя», брыгадамі «Штурмавая» Мінскай, імя Дзяржынскага Баранавіцкай вобл. Рабочыя В. Ф. Вінцэвіч, С. П. Папко, М. Я. Яловік і інш. зрывалі падачу электраэнергіі на аб'екты ворага, выводзілі са строю генератары, помпы, трансфарматары, кабельную сетку, зацягвалі іх рамонт. Так, на вул. Мопра ўвесь май цягнуліся работы па ўключэнню электраэнергіі гарнізонам і вадапомпавай

станцыі ў в. Навінкі (ускраіна Мінска), аднак падземны кабель гітлераўцы так і не аднавілі. Падпольшчыкі прывялі ў непрыгоднасць трансфарматары помпавай станцыі ў Навінках, у рамонтных майстэрнях на Грушаўскім пасёлку, у ням. вайсковай часці па Лагойскай шашы, на падстанцыях піўзавода, Камароўскай каналізацыйнай станцыі, мясакамбінаце. Зробленымі М. А. Ярашэвічам мінамі Гняўко, І. А. Сачак, А. Р. Станкевіч надоўга вывелі са строю трансфарматарныя будкі для забеспячэння электраэнергіяй ням. шпіталя, млынзавода, пятроўшчынскага водазабору, майстэрань па вырабу кабеляў сувязі і інш. У выніку двух дыверсій 28.6.1943 на ЦЭЦ-2 была пашкоджана турбіна і ўзарвана вял. водаправодная труба, горад 12 гадз заставаўся без святла і электраэнергіі. Падпольшчыкі на чале з Гняўко ў пач. лютага 1944 узарвалі трансфарматарны пункт, пакінуўшы без электраэнергіі вайсковыя казармы і склады; узрывам генератара ЦЭЦ-2 было перапынена электразабеспячэнне многіх устаноў і дамоў, у якіх жылі акупанты. Пазней была выведзена са строю падстанцыя, якая падавала электраэнергію ў паўн.-ўсх. частку горада, дзе размяшчаліся шматлікія ваен. аб'екты. Падпольшчыкі не дапусцілі знішчэння ЦЭЦ-2 адступаўшымі гітлераўцамі. 2—3.7.1944 Гняўко і Станкевіч, якія праніклі ў помпавую станцыю і перарэзалі правады, папярэдзілі яе ўзрыў. 4.7.1944 разам з сав. воінамі яны ўдзельнічалі ў размініраванні цэнтр. і 2 размеркавальных пунктаў, ад якіх цягнулася разгалінаваная падземная электракабельная сетка. Яны зберaглі паштовую падземную кабельную сетку, б. ч. трансфарматарных пунктаў, у т. л. ў Доме ўрада і Доме Чырв. Арміі. *М. І. Эпалетаў.*



**Мемарыяльны знак у Цэнтральным скверы г. Мінска на месцы пакарання смерцю ўдзельнікаў Мінскага партыйнага падполля.**

**Групы ў гаражы гарадской управы.** Дзейнічалі пад кіраўніцтвам Кастрычніцкага падп. РК КП(б)Б г. Мінска (у маі — вер. 1942) і Мінскага падп. гаркома КП(б)Б (з вер. 1943).

Група Арндта А. Ф. Дзейнічала з ліп. 1941 да лют. 1944. З вер. 1943 яе ўзначальваў М. Ф. Філіповіч, з ліст. 1943 — Г. М. Карпіловіч. Аб'ядноўвала 20 камуністаў, камсамольцаў і беспарт. патрыётаў, у асн. рабочых гаража. Падтрымлівала сувязь з падполлем на чыг. вузле, праз падпольшчыкаў В. П. Гук, М. К. Вароніч, Я. В. Ісаева і інш.— з партыз. атрадам «Мясцовыя», брыгадамі «Штурмавая», «Беларусь», імя Панамарэнкі, 2-й Мінскай. Члены групы здабывалі для партызан зброю, боепрыпасы, бензін, медыкаменты, учынялі дыверсіі. У крас.— жн. 1942 Карпіловіч з дапамогай падпольшчыкаў С. З. Анікіна, М. А. Зуя, А. М. Кудзіновіча, І. В. Станкевіча вывезлі са склада гаруча-змазачных матэрыялаў 4 бочкі бензіну і 2 салідолу, з хлебазавода «Аўтамат» — 3 скрынкі са зброяй. 7.11.1942 Карпіловіч пераправіў партызанам 2 т солі, якую здабылі Анікін, А. С. Паўлоўскі, Філіповіч і Э. І. Якіменка. У ліп. 1943 патрыёты даставілі на машыне з прыгараднай в. Курасоўшчына ў ачэплены гітлераўцамі Мінск магнітныя міны для дыверсій на чыгунцы. У 1942—43 яны неаднаразова вывозілі партызанам крупы, муку, хлеб і інш. прадукты з хлебазаводаў «Аўтамат» і № 1, млыноў № 3 і № 4, размеркавальнай базы гар. управы, хлебным аддзелам якой загадваў падпольшчык В. С. Шахаў. Падпольшчыца М. М. Калініна («Лілія») працавала ў прадуктовым аддзеле гар. управы, выпісвала і перадавала Філіповічу дадатковыя нарады на соль, хлеб, муку, пераправўляла зброю ў 2-ю Мінскую партыз. брыгаду. На кватэры Кудзіновіча і яго жонкі М. К. Шпакоўскай захоўваліся міны і тол. Праз Шахава члены групы атрымлівалі ад падпольшчыкаў медпункта чыг. ст. Мінск-Пасажырскі медыкаменты і перавязачныя матэрыялы. Вялікую колькасць іх у кастр. 1943 Карпіловіч і Л. Ф. Мурашка вывезлі ў партыз. брыгаду «Штурмавая». У ліст. 1943 арыштавана 14 чал., у студз. 1944—5 чалавек.

Група Якіменкі Э. І. Дзейнічала з снеж. 1941 да чэрв. 1944. З мая 1944 яе ўзначальваў С. З. Анікін. Аб'ядноўвала 16 чал., у асн. рабочых гаража, у т. л. 3 камуністаў і 3 камсамольцаў. Сувязь з падп. гаркомам КП(б)Б і Кастрычніцкім РК КП(б)Б г. Мінска ажыццяўлялі Анікін, Калініна, Г. М. Сакевіч. Былі наладжаны сувязь з партыз. атрадам «Мясцовыя» і 2-й Мінскай партыз. брыгадай, узаемадзеянне з падп. групамі на плодаагароднінных базах № 1 і № 2. Патрыёты забяспечвалі партызан прадуктамі, медыкаментамі, зброяй і боепрыпасамі, вывозілі на аўтамашынах гаража сав. людзей у партыз. атрады. Пераправілі ў 2-ю Мінскую партыз. брыгаду 300 м тканіны, 550 кг солі, 200 л бензіну, 10 кг масла і інш.; вызвалілі з мінскай турмы арыштаванага падпольшчыка Ісаева з жонкай і пераправілі іх да партызан. Члены групы ўдзельнічалі ў аперацыях па выкрыццю фаш. агентаў. *М. І. Эпалетаў.*

Мінскае падполле аб'ядноўвала больш за 9 тыс. прадстаўнікоў 25 нацыянальнасцей СССР, антыфашыстаў 9 замежных краін, налічвала 1025 камуністаў, 2044 камсамольцаў, каля 3 тыс. рабочых, 2235 служачых, 1860 б. ваеннаслужачых, больш за 1700 навучэнцаў і хатніх гаспадынь. У барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў загінулі: В. В. Аглазінскі, Л. Я. Адзінцоў, А. І. Адынец, А. А. Адырэй, М. П. Алісіёнак, П.П. Алісіёнак, С. К. Амельянюк, У. С. Амельянюк, З. А. Андрыянава, С. З. Анікін, А. А. Арндт, А. Ф. Арндт, П. П. Асядоўскі, М. К. Ахрамовіч, В. Дз. Баброў, А. М. Багалейша, М. А. Багданаў, У. Баравік, Е. М. Баранаў, П. Дз. Баранаў, П. П. Бачыла, І. Л. Беланоўскі, С. А. Благаразумаў, Ф. В. Брандт, І. К. Брылеўскі, К. І. Будай, У. К. Будай, Г. Р. Буркоў, А. А. Вадкоўскі, Р. Ф. Валынец, С. І. Васілеўскі, К. Р. Ваўчок, М. М. Воранаў, М. П. Воранаў, В. Я. Вяржбіцкая, П. І. Гавіновіч, З. З. Гало, І. Я. Ганчарэнка, С. М. Гапоненка, М. Гарбачоў, Г. С. Гардзейчык, Н. Я. Герасіменка (з сям'ёй), Е. Д. Грыбовіч, Б. І. Грынкевіч, М. А. Гуд, А. П. Гук, М. Р. Дарасевіч, В. М. Дзявочка, А. М. Дзяменьцеў, П. М. Дзянісаў, В. Ф. Дзярыба, Г. Г. Дзярыба, Д. А. Дорашава, І. І. Драздоўскі, Я. Дробат, М. П. Дрозд (з сям'ёй), Н. Р. Ермаловіч, А. Г. Жалабковіч, В. С. Жудро, Н. С. Жук, Ф. К. Жывалёў, А. І. Загорская, М. П. Зайцаў, С. І. Заяц (Зайцаў), М. І. Зехаў, Н. Р. Зікуненка, В. Р. Іваноўская, І. І. Івашчонак, З. Дз. Ільюшына, І. К. Кабушкін, А. І. Кавалеўскі, І. К. Кавалёў, І. П. Казінец, І. Х. Казлоў, В. І. Кандрашэвіч, А. М. Каранькова, А. А. Каранькоў, С. А. Каранькоў, Дз. А. Караткевіч, А. В. Каржанеўская, М. К. Каржанеўскі, І. В. Кахомскі, Н. М. Качан (з сям'ёй), М. Г. Кірык, В. З. Клімук, Я. У. Клумаў (з жонкай), Ц. Ц. Кляцко, А. М. Кнырко, А. М. Кобак, П. І. Кобзеў, С. Б. Крупадзёраў, М. Кудзелька, А. М. Кудзіновіч, М. К. Кудрыцкая (Арлоўская), В. С. Купрыянава, Л. І. Купрэйчык, З. А. Лапко, Г. М. Лоцман, М. М. Лоцман, М. П. Любезны, А. М. Ляўкоў, А. С. Мазалеўскі, І. А. Мазанік, С. В. Малажаеў, М. Ф. Малаковіч, Б. І. Маляўка, Л. П. Мамат, А. П. Манцывода, Г. А. Манцывода, Б. А. Манькоўскі, В. Х. Маркава, І. Х. Маркаў (Пагодзін), М. Марцянкевіч, П. Маскалевіч, Ю. М. Масленікаў, І. І. Матусевіч, М. С. Махнач, Я. М. Мілінкевіч, М. Я. Міроначык, М. М. Міхайлаў, Л. Ф. Мурашка, І. Мястоўскі, В. В. Навіцкая, М. М. Невідовіч, К. П. Несцяронак, М. Нікановіч, Ф. Нікіфарава, В. К. Нікіфараў, М. А. Няхаеў, І. Ф. Падабед, В. Р. Пазмогаў, М. Н. Паўлаў, К. А. Паўлечка, М. В. Пелюх, К. М. Пенкрат, Л. А. Пенкрат, М. Н. Пенкрат, П. Пілецкі, Ф. М. Пшэчэнка, З. П. Пятрова (Чаркасава), Я. Ф. Раманава, Р. Г. Раманаў, Д. С. Рачыцкі, В. Ф. Рубец, І. С. Руткоўскі, Савінскі, Г. Ф. Савіцкі, А. С. Саковіч, А. І. Салаўёў, В. Дз. Сантоцкая, Г. П. Сапун, Г. Д. Сасіна, У. Л. Серафімаў, С. В. Сержановіч, В. Сіляўка, П. Ф. Сіманенка, М. В. Сіневіч, І. М. Сіткевіч, І. В. Станкевіч, І. І. Стрэчань, Л. П. Сумарава, Г. І. Сцяпура, Г. М. Сямёнаў, С. М. Сямёнаў,

М. П. Сянькевіч, І. М. Сянько, А. Л. Тарлецкі, І. Ц. Тоўсцік, К. Ц. Тоўсцік, К. І. Трус, Г. Тупіцкая, П. А. Тупіцкі, А. Р. Фаловіч, Ф. Фурсееў, П.К. Хадасевіч (з сям'ёй), М. Ф. Хаткоўскі, А. С. Хацько, М. Р. Хмялеўская, П. Н. Хмялеўскі, Л. С. Цапурняк, Н. Т. Цвяткова, П. М. Цвяткова, П. М. Цвяткоў, А. К. Цясленка, Л. М. Чаргановіч, В. Чаркасаў, І. Ц. Чарнуха, М. І. Чырко, П. І. Чыркун, В. С. Шахаў, В. Д. Шацько, С. А. Шостак, Г. Штрубэ, М. А. Шугаеў, А. А. Шумская, В. Ф. Шчарбацэвіч, Валодзя Шчарбацэвіч, С. С. Шчаўлюк, У. С. Шыловіч, Г. Ф. Шырко, С. І. Шэлях, С. В. Якаўлеў, Э. І. Якіменка, Н. Ф. Янушкевіч, П. Ф. Янушкевіч, М. І. Яраслаўцаў, І. І. Яцэвіч.

За гераізм, праяўлены ў барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў, У. С. Амельянюку, І. К. Кабушкіну, І. П. Казінцу, М. А. Кедышку, Я. У. Клумаву, А. Р. Мазанік, М. Б. Осіпавай, Н. В. Траян прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Каля 600 чал. узнагароджаны ордэнамі і медалямі. Іменамі падпольшчыкаў Л. Я. Адзінцова, У. С. Амельянюка, З. З. Гало, Н. Я. Герасіменкі, М. П. Дразда, В. С. Жудро, І. К. Кабушкіна, І. П. Казінца, Дз. А. Караткевіча, М. К. Каржанеўскага, М. А. Кедышкі, Я. У. Клумава, А. М. Ляўкова, І. І. Матусевіча, Г. М. Сямёнава, К. І. Хмялеўскага, В. Д. Шацько названы вуліцы Мінска. За мужнасць і гераізм, самаадданую барацьбу працоўных Мінска з ням.-фаш. захопнікамі ў гады вайны, а таксама за поспехі ў аднаўленні і развіцці нар. гаспадаркі ў пасляваен. перыяд горад у 1966 узнагароджаны ордэнам Леніна. За выдатныя заслугі перад Радзімай, мужнасць і гераізм, праяўленыя працоўнымі горада ў барацьбе супраць гітлераўскіх акупантаў, вял. ролю ў разгортванні ўсенар. партыз. руху на Беларусі ў гады Вял. Айч. вайны і ў азнаменаванне 30-годдзя вызвалення БССР ад ням.-фаш. захопнікаў Указам Прэзідыума ВС СССР ад 26.6.1974 Мінску прысвоена ганаровае званне «Горад-герой». Месцы, звязаныя з дзейнасцю падполля, адзначаны мемар. знакамі. Гл. таксама картусхему на с. 353. І. М. *Ігнаценка*

**МІНСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1944,** наступальная аперацыя войск 3-га (ген. арміі І. Д. Чарняхоўскі), 2-га (ген.-палк. Г. Ф. Захараў), 1-га (Маршал Сав. Саюза К. К. Ракасоўскі), Беларускіх франтоў пры садзеянні 1-га Прыбалт. фронту (ген. арміі І. Х. Баграмян) 29 чэрв.—4 ліп.; састаўная частка *Беларускай аперацыі 1944*.

Удзельнічалі: 5-я (ген.-лейт. М. І. Крылоў), 11-я (ген.-палк. К. М. Галіцкі), 31-я (ген.-лейт. В. В. Глаголеў), 5-я гвардз. танк. (маршал бронетанк. войск П. А. Ротмістраў), 1-я паветр. (ген.-палк. авіяцыі Ц. Ц. Хрукін) арміі, коннамеханіз. група (ген.-лейт. М. С. Асліко ўскі), 2-і гвардз. танк. корпус (ген.-маёр танк. войск А. С. Бурдзейны) 3-га Бел. фронту; 33-я (ген.-лейт. В. Дз. Кручонкін), 49-я (ген.-лейт. І. Ц. Грышын), 50-я (ген.-лейт. І. В. Болдзін), 4-я паветр. (ген.-палк. авіяцыі К. А. Вяршынін) арміі 2-га Бел. фронту; 3-я (ген.-палк. А. В. Гарбатаў), 48-я (ген.-лейт. П. Л. Раманенка), 16-я паветр. (ген.-палк. авіяцыі С. І. Рудэнка) арміі, конна-механізаваная група (ген.-лейт. І. А. Пліеў) 1-га Бел. фронту.

У выніку ажыццяўлення Віцебска-Аршанскай, Магілёўскай і Бабруйскай аперацый 1944 (гл. адпаведныя артыкулы) ням. 4-я і частка сіл 9-й арміі групы армій «Цэнтр» апынуліся ў паўкольцы глыбока ахопленыя сав. войскамі. Да зыходу 28 чэрв. войскі 1-га Прыбалт. фронту вялі баі на подступах да Полацка і на рубяжы Заазер'е — Лепель, войскі 3-га Бел. фронту падышлі да р. Бярэзіна (у раёне Барысава), ахопліваючы праціўніка з Пн, войскі 2-га Бел. фронту наступалі з У з міжрэчча Дняпра і Друці, не даючы магчымасці ням. войскам адарвацца і арганізавана адступіць да Бярэзіны, войскі 1-га Бел. фронту, зламаўшы абарону ням.-фаш. войск на Бярэзіне (у раёне Бабруйска), выйшлі на рубеж на У ад Свіслачы і Асіповіч, ахапіўшы праціўніка з Пд. Рухомыя злучэнні франтоў, якія дзейнічалі ў раёнах Барысава і Асіповіч, знаходзіліся за 100 км ад Мінска, у той час як гал. сілы праціўніка, што адыходзілі да Мінска, за 130—150 км ад яго. У гэтых умовах сав. камандаванне ставіла задачу: імклівымі ўдарамі войск левага крыла 3-га Бел. фронту і часткі сіл правага крыла 1-га Бел. фронту па збежных напрамках на Мінск ва ўзаемадзеянні з 2-м Бел. фронтам завяршыць акружэнне групоўкі войск праціўніка і вызваліць Мінск. Адначасова войскі 1-га Прыбалт. фронту правага крыла 3-га Бел. фронту і частка сіл 1-га Бел. фронту павінны былі працягваць імклівае наступленне на З, знішчыць падыходзячыя рэзервы праціўніка і стварыць умовы для развіцця наступлення на шаўляйскім, каўнаскім і варшаўскім напрамках. Войскі 3-га Бел. фронту 30 чэрв. гал. сіламі фарсіравалі Бярэзіну, разбілі барысаўскую групоўку гітлераўцаў, 1 ліп. вызвалілі Барысаў, Бягомль, 2 ліп.— Лагойск, Смалявічы, Вілейку, Краснае, перарэзалі чыгунку Мінск — Вільнюс. Войскі 1-га Бел. фронту 30 чэрв. вызвалілі Любань, Слуцк, 2 ліп. — Стоўбцы, Гарадзею, перарэзалі чыгунку Мінск — Баранавічы. Адначасова ў напрамку Мінска наступалі войскі 2-га Бел. фронту, якія 29 чэрв. вызвалілі Бялынічы, 2 ліп.— Чэрвень, 3 ліп.— Беразіно. Рухомыя злучэнні 1-га Бел. фронту у ноч на 3 ліп. абышлі Мінск з Пд, выйшлі да паўд.-ўсх. ускраіны горада, дзе злучыліся з войскамі 3-га Бел. фронту. Вырашальны ўдар па варожым гарнізоне ў Мінску, які складаўся з 3 пях. і 1 танк. дывізій, 3 палкоў СС і розных спец. падраздзяленняў, быў нанесены на досвітку 3 ліпеня. З У і ПнУ у горад уварваўся 2-і гвардз. танк. корпус, з Пн увайшлі часці 5-й гвардз. танк. арміі і перадавыя падраздзяленні 11-й гвардз. і 31-й армій 3-га Бел. фронту, у сярэ-



дзіне дня с ПдУ — 1-ы гвардз. танк. корпус і часці 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У 2-й пал. дня 3.7.1944 Мінск быў поўнасцю вызвалены. На У ад горада былі акружаны гал. сілы 4-й і асобныя злучэнні 9-й ням. армій, у *мінскі «кацёл»*, які ўтварыўся, трапілі 105 тыс. салдат і афіцэраў праціўніка, да 11 ліп. групоўка была разгромлена. У час правядзення М. а. сав. авіяцыя ўтрымлівала перавагу ў паветры, наносіла па ворагу магутныя ўдары, перашкоджвала падыходу рэзерваў праціўніка, дэзарганізоўвала планамернае адступленне яго войск. 4 ліп. войскі 3-га і 1-га Бел. франтоў дасягнулі рубяжу воз. Нарач — Маладзечна на З ад Стоўбцаў, вызвалілі Нясвіж. Войскі 1-га Прыбалт. фронту, якія дзейнічалі на стыку 2 груп ням.-фаш. армій і забяспечылі правядзенне М. а., надзейна ізалявалі групу армій «Поўнач» і не далі ёй магчымасці прыйсці на дапамогу групе армій «Цэнтр», 4 ліп. выйшлі на



Экспазіцыя, прысвечаная Вялікай Айчыннай вайне, у Мінскім абласным краязнаўчым музеі.

лінію на З ад Варапаева — воз. Мядзел. У ажыццяўленні аперацыі вял. дапамогу войскам аказвалі партызаны брыгад імя Шчорса, імя газеты «Правда», «Дзядзькі Колі», «Штурмавая», «Жалязняк», «Бальшавік», 1-й і 2-й Мінскіх, імя Чкалава і інш. 53 злучэнням і часцям, якія вызначыліся ў аперацыі, нададзены ганаровыя найменні «Мінскіх», 13 — «Барысаўскіх», 8 — «Слуцкіх».

*У. І. Лемяшонак.*

**МІНСКІ АБЛАСНЫ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ.** Адкрыты 26.4.1964 у г. Маладзечна. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, мае 55 экспанатаў асн. фонду (усяго 150 экспанатаў), пл. 16 м². Расказваецца аб мерапрыемствах партыі і ўрада па мабілізацыі сіл на адпор ворагу, аб абарончых баях на тэр. вобласці ў 1941, удзеле воінаў-землякоў у абароне Масквы, Ленінграда, Адэсы, Каўказа і інш. (фотакопіі дакументаў партыі і ўрада, фатаграфіі членаў экіпажа М. Ф. *Гастэлы*, які здзейсніў подзвіг каля г. п. Радашковічы, матэрыялы пра драматурга А. Махнача, удзельніка абароны Брэсцкай крэпасці, пра Героеў Сав. Саюза Г. А. Палаўчэню, Ф. А. Мінкевіча і інш.). Матэрыялы аб узнікненні і разгортванні падполля і партыз. руху ў вобласці: загад нач. ЦШПР «Аб партызанскай рэйкавай вайне на камунікацыях ворага», карта дыслакацыі партыз. брыгад і атрадаў на тэр. Мінскай вобл., мед. інструменты нач. медслужбы партыз. атрада «За Радзіму» брыгады імя Фрунзе Н. М. Матысон, інструменты зброевага майстра партыз. брыгады імя газеты «Правда» А. А. Гаўрыльчыка, падп. газеты *«Голас сялянiна»*, *«За Советскую Родину»*, *«Молодой мститель»*, *«Мститель»*, *«Народны мсцівец»*, *«Партизанская правда»*, *«Советский патриот»*, *«Сялянская газета»*, *«Чырвоная звязда»* і інш., фатаграфіі сакратароў падп. абкома КП(б)Б І. Ф. *Клімава*, Герояў Сав. Саюза В. І. *Казлова*, В. Я. *Чарнышова*, абкома ЛКСМБ Я. М. Канапліна, А. К. Рыбакова, Героя Сав. Саюза П. М. *Машэрава*, Герояў Сав. Саюза камандзіраў брыгад Ф. Р. *Маркава*, А. І. *Валынца*, камандзіра атрада А. С. *Азончыка* і інш. Расказваецца аб злачынствах ням.-фаш. захопнікаў на тэр. вобласці: дакументы акупацыйных улад, прадметы побыту, знойдзеныя на месцы былой в. *Хатынь*, рэчы вязняў *Маладзечанскага лагера смерці*. Матэрыялы аб вызваленні Мінскай вобл. ў ходзе *Беларускай аперацыі 1944* (фатаграфіі Герояў Сав. Саюза П. М. Рака, А. А. Пятраева, А. І. Данілава, якія загінулі пры вызваленні Барысава, часткі самалёта і асабістыя рэчы экіпажа М. С. Андрыякіна, які загінуў 29.6.1944 і інш.), аб удзеле землякоў у вызваленні народаў Усх. Еўропы.

*С. І. Марозаў.*

**МІНСКІ «КАЦЁЛ»**, акружэнне войскамі 1-га, 2-га і 3-га Бел. франтоў у ходзе *Мінскай аперацыі 1944* гал. сіл 4-й і асобных злучэнняў 9-й ням. армій на У ад Мінска 3.7.1944. У «кацёл» трапіла 105 тыс. гітлераўцаў. 4.7.1944 сав. войскі — часці 49-й, 50-й армій 2-га Бел. фронту, 33-й арміі 3-га Бел. фронту, частка сіл 1-й і 4-й паветр. армій пачалі ліквідацыю акружаных войск. Спробы іх вырвацца з «катла» поспеху не мелі. 7—8 ліп. знішчаны ці ўзяты ў палон гал. сілы ням. войск, 9—11 ліп. — астатнія асобныя групы. У М. «к». знішчана больш за 70 тыс. і ўзята ў палон каля 35 тыс. варожых салдат і афіцэраў, у т. л. 12 генералаў. У ліквідацыі «катла» ўдзельнічалі партызаны брыгад 2-й Мінскай, «Буравеснік», імя Ракасоўскага, «За Савецкую Беларусь», імя газеты «Правда», «Полымя», імя Шчорса і інш. Партызаны ахоўвалі ўсе асн. аб'екты ў Мінску і яго ваколіцах. Акружэнне праціўніка ў М. «к». — важнае дасягненне ў развіцці сав. ваен. майстэрства. Упершыню ў наступальных дзеяннях Чырв. Арміі праціўнік быў акружаны і разгромлены ў выніку паралельнага і франтальнага праследавання на глыбіні 200—250 км ад пярэдняга краю яго абароны.

*У. І. Лемяшонак.*

**МІНСКІ ПАДПОЛЬНЫ АБКОМ КП(б)Б.** Створаны *Цэнтральным Камітэтам КП(б)Б* і працаваў пад яго кіраўніцтвам з 21.7.1941 да 3.7.1944. Дзейнічаў на тэр. Мінскай і Палескай (крас. 1942 — сак. 1943) абл. Кіраваў дзейнасцю падп. Барысаўскага міжрайпартцэнтра, Мінскага і Слуцкага міжрайкомаў, Мінскага гаркома, Барысаўскага гаркома-райкома КП(б)Б (гл. адпаведныя артыкулы), 20 падп. райкомаў [гл. *Раённыя падпольныя камітэты КП(б)Б*, якія ўзначальвалі пярвічныя парт. арг-цыі ў 240 партыз. атрадах і брыгадах, шэраг тэрытарыяльных падп. арг-цый, 7400 камуністаў. Накіроўваў дзейнасць падп. Мінскага абкома, Барысаўскага, Мінскага і Слуцкага міжрайкомаў, Мінскага, Мінскага Паўд. і Барысаўскага гаркомаў ЛКСМБ (гл. адпаведныя артыкулы), 21 падп. райкома (гл. *Раённыя падпольныя камітэты ЛКСМБ)*, парт. і камсам. падполля: Азёрскага, Барысаўскага, Веліказтахаўскага, Грэскага, Дзяржынскага, Каладзішчанскага, Мар'інагорскага, Мінскага, Плешчаніцкага, Рудзенскага, Слуцкага, Тарасава-Ратамскага, торфапрадпрыемства «Чырвоны Сцяг» Смалявіцкага р-на, Уздзенскага, Хідраўскага і інш. Пад яго кіраўніцтвам у розны час дзейнічалі Мінскае, Слуцкае, Барысаўска-Бягомльскае партыз. злучэнні, 213 партыз. атрадаў, аб'яднаных у 45 брыгад, больш за 50 асобна дзейных атрадаў, усяго больш за 55 тыс. партызан. Сакратары абкома: В. І. *Казлоў*, І. А. *Бельскі*, А. Ф. *Брагін* (загінуў у кастр. 1941), І. Дз. *Варвашэня* (да мая 1943). Р. Н. Мачульскі (20.9.1942 — май 1943, 11.9.1943 — май 1944); члены: А. Г. Бондар (да 20.9.1942), Мачульскі, А. І. Сцяпанава, М. П. *Пакроўскі*, (16.11.1942 — чэрв. 1943), І. С. *Канановіч* (з 16.11.1942), К. Т. *Мазураў* (16.11.1942 — жн. 1942), І. А. *Сацункевіч* (16.11.1942 — сак. 1943). Базіраваўся ў Старобінскім, Любанскім і Акцябрскім р-нах.

Кіраваў паліт.-масавай і ваен.-арганізацыйнай работай сярод насельніцтва і партызан, агітацыяй сярод салдат варожых фарміраванняў. Друк. орган — газ. *«Звязда»*; выдаваў адозвы, лістоўкі, бюлетэні, зводкі Саўінфармбюро, распаўсюджваў газеты, якія прысылаліся з сав. тылу па Бягомльскі і Любанскі аэрадромы. Газеты выдавалі таксама падп. Мінскі гарком, Барысаўскія міжрайпартцэнтр і гарком-райком, 20 райкомаў КП(б)Б і 4 партыз. брыгады (гл. *Друк падпольны*). Толькі за 1943 падп. парт. к-ты вобласці выдалі і распаўсюдзілі 445 тыс. экз. газет і лістовак. Сакратары абкома Казлоў, Бельскі, Мачульскі ўдастоены звання Героя Сав. Саюза.

У гонар падп. Мінскіх абкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, Любанскіх райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, штабоў Мінскага партыз. злучэння, партыз. бры-

гады 25-й імя Панамарэнкі створаны мемар. комплекс *Зыслаў* у Любанскім р-не; у гонар 1-га пасяджэння падп. абкома 21.7.1941 у пас. Чырвоная Паляна Любанскага р-на ў 1976 пастаўлена стэла. У гонар Мінскага падп. абкома КП(б)Б, штабоў Мінскага партыз. злучэння, партыз. злучэння Мінскай і Палескай абл., падп. друкарні ў 1972 у в. Альбінск і в. Дзвесніца Акцябрскага р-на ўстаноўлены мемар. дошкі, на востраве Добры і ва ўрочышчы Дзвесніца адноўлены 3 партыз. зямлянкі, устаноўлена мемар. пліта. *Р. Н. Мачульскі.*

**МІНСКІ ПАДПОЛЬНЫ АБКОМ ЛКСМБ.** Створаны *Мінскім падпольным абкомам КП(б)Б.* Дзейнічаў з 26.6.1943 да ліп. 1944 пад кіраўніцтвам *Цэнтральнага Камітэта ЛКСМБ* і Мінскага падп. абкома КП(б)Б. Узначальваў дзейнасць падп. Барысаўскага, Мінскага, Слуцкага міжрайкомаў, Барысаўскага, Мінскага, Мінскага Паўд. гаркомаў ЛКСМБ (гл. адпаведныя артыкулы), 3 гарадскіх і 21 сельскага райкомаў ЛКСМБ, 563 падп. тэрытарыяльных, 900 пярвічных камсам. арг-цый у партыз. фарміраваннях, усяго каля 20 тыс. камсамольцаў. Сакратары абкома: С. І. *Пармон* (чл. ЦК ЛКСМБ), П. Е. *Папоў*, Я. М. *Канаплін* (з 15.9.1943), чл. абкома А. Ю. Дзенісевіч (адначасова інструктар ЦК ЛКСМБ па рабоце ў тыле ворага). Інструктары абкома па падп. рабоце: А. П. Кашыраў (адначасова інструктар ЦК ЛКСМБ па рабоце ў тыле ворага), Г. П. Дзятлава (да 1.8.1943), Н. С. Макарава, С. М. Новікаў, П. Ф. Патоцкая (да вер. 1943). Асн. база знаходзілася ў Любанскім р-не. Друкаваныя органы — газеты *«Чырвоная змена»* і *«Сталинская молодёжь»* (выдавалася сумесна з ЦК ЛКСМБ).

Да стварэння падп. абкома камсам.-маладзёжным падполлем вобласці кіравалі Мінскі падп. абком КП(б)Б, апаратыўная група Мінскага абкома ЛКСМБ, потым Мінскі абком ЛКСМБ (дзейнічаў у жн. 1942 — сак. 1943 у прыфрантавой палосе), з ліп. 1942 — Барысаўскі, Мінскі, Слуцкі міжрайкомы ЛКСМБ, з вер. 1942 — група ЦК ЛКСМБ на чале з сакратаром ЦК ЛКСМБ К. Т. *Мазуравым*, з ліст. 1942 — упаўнаважаны ЦК ЛКСМБ па Мінскай вобл., сакратар Мінскага абкома ЛКСМБ Пармон. Мінскі падп. абком ЛКСМБ увекавечаны ў мемар. комплексе *Зыслаў.* *Р. М. Шавяла.*

**МІНСКІ ПАДПОЛЬНЫ ГАРКОМ КП(б)Б,** кіруючы орган *Мінскага партыйнага падполля.* Створаны па ініцыятыве прыбыўшага па заданню ЦК КП(б)Б у акупіраваны Мінск даваен. сакратара Заслаўскага РК КП(б)Б І. К. *Кавалёва*, які аб'яднаў падп. групы і арг-цыі, што ўзніклі самастойна ў розных частках горада. У канцы ліст. 1941 адбылася нарада прадстаўнікоў падп. груп і арг-цый, на якой быў створаны гар. парт. цэнтр на чале з Кавалёвым. Гэты цэнтр стаў выконваць функцыі Мінскага падп. гар. к-та партыі. У склад падп. гаркома ўваходзілі К. Дз. Грыгор'еў (падп. мянушка Катай, да мая 1942), В. С. *Жудро*, С. І. *Заяц* (Зайцаў), Кавалёў (сакратар), І. П. *Казінец* (Слаўка Пабядзіт), Г. М. *Сямёнаў* (Жорж, Жук), старшыня падп. арг-цыі Ваенны савет партыз. руху С. І. Рогаў (загінуў у крас. 1942), А. Л. Коцікаў, В. К. *Нікіфараў.*

У сак.-крас. 1942 фаш. карныя органы правялі ў Мінску масавыя арышты падпольшчыкаў, кінулі ў турму больш за 400 чал. і жорстка расправіліся з імі. 7.5.1942 яны публічна павесілі 28 патрыётаў, у т. л. актыўных членаў падп. гаркома С. І. Зайца, І. П. Казінца, Г. М. Сямёнава. У той жа дзень былі расстраляны яшчэ 251 чал. Члены гаркома і актывісты, што пазбеглі арышту, у маі 1942 правялі нараду, дзе прааналізавалі прычыны сакавіцкага правалу, зрабілі арганізацыйную перабудову падполля, якое стала будавацца па вытворча-тэрытарыяльным прынцыпе. Замест загінуўшых у склад падп. гаркома [у некаторых дакументах ён стаў называцца Мінскім камітэтам КП(б)Б] выбраны У. С. *Амельянюк*, Дз. А. *Караткевіч.* Замест загінуўшага 26.5.1942 Амельянюка ў падп. гарком уведзены К. І. *Хмялеўскі.* У гаркоме былі створаны 4 аддзелы: разведкі, агітацыі і прапаганды, ваенны і арганізацыі дыверсій. Па рашэнню нарады створаны і сталі дзейнічаць Варашылаўскі, Кастрычніцкі, Сталінскі, Тэльманаўскі і Чыгуначны гар. падп. райкомы КП(б)Б, пачала выдавацца газ. *«Звязда»* — друкаваны орган гаркома. Гарком і райкомы стварылі шырокую сетку падп. парт. і камсам. арг-цый, што дзейнічалі на ўсіх найбольш значных прадпрыемствах і ўстановах Мінска: з-дах імя К. Я. Варашылава, імя А. Ф. Мяснікова, «Бальшавік», «Чырвоная зорка», «Беларусь», радыёзаводзе, хімфамзаводзе, хлебазаводзе «Аўтамат», друкарні імя І. В. Сталіна і многіх інш. У 1942 пад кіраўніцтвам гаркома і падп. райкомаў барацьбу супраць акупантаў вялі больш за 100 падп. арг-цый і груп, больш як 3200 камуністаў, камсамольцаў і беспарт. патрыётаў. Падп. гарком КП(б)Б трымаў сувязь з Дзяржынскім, Каладзішчанскім, Уздзенскім, Тарасава-Ратамскім, Прылепскім, Возерскім парт. і парт.-камсам. падполлем. Вялікую работу праводзіў падп. гарком па разгортванню партыз. руху. З яго дапамогай у ваколіцах Мінска створана больш за 20 партыз. атрадаў і брыгад, якія пастаянна папаўняліся людзьмі, зброяй, медыкаментамі і інш. У вер.— кастр. 1942 гітлераўцы арыштавалі і загубілі яшчэ больш як 150 падпольшчыкаў, у т. л. ўсіх членаў Мінскага падп. гаркома і сакратароў гар. райкомаў партыі.

У вер. 1943 ЦК КП(б)Б зацвердзіў прапанову *Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б* аб стварэнні Мінскага падп. гаркома, які дыслацыраваўся ў партыз. зоне. Сакратары гаркома: С. К. *Ляшчэня*, Г. М. *Машкоў*, І. П. *Паромчык*; члены: С. А. *Ваўпшасаў*, І. М. Родзін. Друкаваны орган — газ. *«Минский большевик»* (рэд. А. Дз. Сакевіч). Пад кіраўніцтвам гаркома партыі працавалі *Мінскі падпольны гарком ЛКСМБ* і *Мінскі Паўднёвы падпольны гарком ЛКСМБ.* Пад яго кіраўніцтвам у канцы 1943—1-й пал. 1944 дзейнічала 120 падп. груп, праведзены сотні дыверсій, мерапрыемствы па ратаванню мінчан ад знішчэння і вывазу ў Германію. У час вызвалення горада аказваў дапамогу Чырв. Арміі па размініраванню прамысловых прадпрыемстваў, адм. будынкаў, камунальных і транспартных камунікацый. У. С. Амельянюку, І. П. Казінцу (пасмяротна), С. А. Ваўпшасаву прысвоена званне Героя Сав. Саюза. *А. М. Літвін.*

**МІНСКІ ПАДПОЛЬНЫ ГАРКОМ ЛКСМБ.** Створаны *Мінскім падпольным міжрайкомам ЛКСМБ.* Дзейнічаў са снеж. 1942 да ліп. 1944 пад кіраўніцтвам Мінскіх падп. абкома і міжрайкома КП(б)Б, міжрайкома, з чэрв. 1943 — *Мінскага падпольнага абкома ЛКСМБ* і Заслаўскага падп. РК КП(б)Б. Сакратары гаркома: М. Я. *Нікалаеў*, Б.Ф. Мярзлікін, У. М. Лебедзеў; член В. Ф. Верхаводзька (да чэрв. 1943, загінула); інструктары па падп. рабоце, в. а. членаў гаркома: У. Ф. Грыц (з 1.6.1943), П. Я. Кудраўцава (з 25.5.1943, адначасова кіраўнік падп. камсам. арг-цыі «Танюша»). З лют. 1943 да студз. 1944 дзейнічала група падп. гаркома, у якую ўваходзіў сакратар мінскай падпольнай камсам. арг-цыі «Андруша» М. А. *Кедышка* (загінуў), яго нам. Л. М. Яраш (загінуў), П. Я. Кудраўцаў (загінуў), У. П. Трушко, М. М. Залясў.

Члены групы выконвалі заданні сакратароў гаркома камсамола, падтрымлівалі сувязь гаркома з падп. камсам. арг-цыямі Мінска і накіроўвалі іх дзейнасць. Пастаяннымі сувязнымі падп. ГК ЛКСМБ былі Г. Бажэйка, С. Д. Бойка, Д. Бурло, Г. Быглейка, К. Гойчык, В. А. Дамброўская, Г. Дрозд, Надзея А. Кедышка, М. П. Клімовіч, П. Я. Кудраўцава, М. Ф. Пятроўская, Л. Ф. Селіванава, А. Сярпоўскі, П. Сокал, М. Суботка (загінула), Н. Філіповіч-Кудраўцава і інш. Пад кіраўніцтвам гаркома ў 1943—44 працавала 20 падп. арг-цый, 26 груп *Мінскага камсамольска-маладзёжнага падполля,* падпольшчыкі адзіночкі, усяго разам з сувязнымі больш за 1 тыс. чал. Дыслацыраваўся гарком пры партыз. брыгадзе «Штурмавая» ў Заслаўскім р-не.

Да стварэння падп. гаркома кіраўніцтва камсам.-маладзёжным падполлем Мінска ажыццяўлялі асобныя камуністы, з ліст. 1941 да вер. 1942 — *Мінскі падпольны гарком КП(б)Б,* па заданню якога

з канца 1941 камсам. арганізатарам і кіраўніком падполля працаваў С. А. *Благаразумаў* (загінуў). У кастр. 1942 Мінскі падп. міжрайком ЛКСМБ даручыў сакратару Мінскага падп. РК ЛКСМБ Л. Г. *Гайдучонак* (загінула) кіраўніцтва камсам.-маладзёжным падполлем горада. Яна наладзіла сувязь з уцалелымі падп. арг-цыямі і накіроўвала іх дзейнасць да 20.5.1943. З 25.1. да 4.7.1944 адначасова дзейнічаў *Мінскі Паўднёвы падпольны гарком ЛКСМБ*. *Р. М. Шавяла.*

М. М. Мінчанкоў. Дз. М. Мінчугоў.





Помнік у гонар Мінскага падпольнага міжрайкома КП(б)Б каля в. Раваніцкая Слабада Чэрвеньскага раёна.

**МІНСКІ ПАДПОЛЬНЫ МІЖРАЙКОМ КП(б)Б.** Міжраённы падпольны камітэт КП(б)Б Мінскай зоны. Створаны *Цэнтральным Камітэтам* КП(б)Б 11.8.1942. Дзейнічаў з 3.10.1942 да 18.9.1943. Кіраваў парт. падполлем і партыз. рухам на тэр. Дзяржынскага, Заслаўскага, Мінскага, Пухавіцкага, Рудзенскага і Чэрвеньскага р-наў. Сфарміраваў і зацвердзіў 7.12.1942 падп. Дзяржынскі, Мінскі, Пухавіцкі, Рудзенскі і Чэрвеньскі, 3.1.1943 Заслаўскі райкомы [гл. *Раённыя падпольныя камітэты КП(б)Б*], накіроўваў работу *Мінскага падпольнага міжрайкома ЛКСМБ*.

Займаўся пытаннямі актывізацыі баявой дзейнасці партыз. атрадаў і арганізацыі на іх базе брыгад, стварэння тэрытарыяльных падп. парт. арг-цый, аховы насельніцтва ад знішчэння і вывазу на катаржныя работы ў Германію і інш. Сумесна з падп. райкомамі КП(б)Б стварыў у раёнах зон некалькі друкарняў і забяспечыў выпуск газет «В бой за Родину» (з мая 1943 *«Бальшавіцкі сцяг»*, Рудзенскі р-н), *«Ленінская праўда»* (Дзяржынскі р-н), *«Мы отомстим»* (Заслаўскі р-н), *«Партизан Белоруссии»* (Пухавіцкі р-н), *«Шлях сацыялізма»* (Мінскі сельскі р-н), *«Червенский партизан»*; у друкарнях выдаваліся таксама лістоўкі (тыраж 1,5—2 тыс. экз.). У 1942 па рашэнню міжрайкома парт. арг-цыі партыз. атрадаў стварылі 46 агіткалектываў.

Сакратары міжрайкома: І. Л. *Сащункевіч* (да 15.3.1943), І. П. *Паромчык* (з 15.3.1943); члены: Паромчык, С. Л. Балабуткін, Р. А. Молчан (з 18.5.1943). Асн. месца базіравання — лес на ПнЗ ад в. Раваніцкая Слабада Чэрвеньскага р-на. Ліквідаваны ЦК КП(б)Б пасля выканання сваіх функцый.

У гонар падп. міжрайкома і партыз. брыгады «Разгром» каля в. Раваніцкая Слабада ў 1955 пастаўлена стэла, на месцы базіравання падп. міжрайкома, Чэрвеньскіх падп. райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, штаба партыз. брыгады «Разгром» у 1982—84 створаны мемар. комплекс «Разгром». *А. М. Літвін.*

**МІНСКІ ПАДПОЛЬНЫ МІЖРАЙКОМ ЛКСМБ.** Створаны *Цэнтральным Камітэтам ЛКСМБ*. Дзейнічаў з 18.7.1942 да 22.11.1943 пад кіраўніцтвам *Мінскага падпольнага міжрайкома КП(б)Б* і *Мінскага падпольнага абкома ЛКСМБ* (з 26.6.1943). Кіраваў камсам.-маладзёжным падполлем у Мінску і Дзяржынску, у Дзяржынскім, Заслаўскім, Мінскім, Пухавіцкім, Рудзенскім і Чэрвеньскім р-нах. Сакратары міжрайкома: Я. І. Іўкін (пасля скасавання міжрайкома да сак. 1944 упаўнаважаны падп. абкома ЛКСМБ па Мінскай зоне), С. А. *Пілатовіч* (1.10.1942—1.3.1943); члены міжрайкома: А. М. Бадзягіна (да 1.10. 1942, загінула), М. П. Саламацін (да 1.10.1942, загінуў), Л. Г. *Гайдучонак* (†.9.1942—20.5.1943, загінула), Пілатовіч, П. Ф. Патоцкая (абодва з 1.9.1942); інструктары-сувязныя міжрайкома, ЦК ЛКСМБ: Т. С. Аляб'ева (да 1.9.1943), Р. І. *Шаршнёва* (да 5.12.1942, загінула). Базіраваўся ў партыз. фарміраваннях Мінскай зоны. *Р. М. Шавяла.*

**МІНСКІ ПАЎДНЁВЫ ПАДПОЛЬНЫ ГАРКОМ ЛКСМБ.** Створаны паводле рашэння і працаваў пад кіраўніцтвам *Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б* і *Мінскага падпольнага абкома ЛКСМБ*. Дзейнічаў з 25.1 да 4.7. 1944 паралельна з *Мінскім падпольным гаркомам ЛКСМБ*. У сак.—ліп. ўзначальваў работу Варашылаўскага, Кастрычніцкага, Сталінскага падп. РК ЛКСМБ г. Мінска. Сумесна з райкомамі стварыў 23 камсам.-маладзёжныя групы (па 3—5 чал.), якія вялі разведку, сачылі за мініраваннем акупантамі прадпрыемстваў і будынкаў, распаўсюджвалі лістоўкі, газеты, здабывалі зброю, боепрыпасы, медыкаменты, соль, мыла. Пад кіраўніцтвам гаркома яны правялі шэраг баявых аперацый, у т. л. ўзрыў катла на ЦЭЦ-2 (электрастанцыя не працавала 6 сутак), выратоўвалі насельніцтва ад вывазу ў Германію і выводзілі яго ў партыз. зону. Сакратары гаркома А. Дз. Белагорцаў, Г. Ю. Бухаўцова (па прапагандзе); члены: В. Г. Васільева, В. М. Сярмяжка. У рабоце гаркома ўдзельнічаў інструктар ЦК ЛКСМБ А. Ю. Дзенісевіч. Асн. база знаходзілася ў *партызанскім атрадзе «Мясцовыя»*. Пастаянную сувязь з Мінскім парт. і камсам. падполлем падтрымлівау цераз сувязных. У час вызвалення Мінска падпольшчыкі дапамагалі сав. воінам прадухіліць узрывы многіх аб'ектаў. *Р. М. Шавяла.*

**«МИНСКИЙ БОЛЬШЕВИК»**, газета, орган *Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б*. Друкавалася ў друкарні Мінскага сельскага падп. РК КП(б)Б. Агульны тыраж 10 тыс. экз., большая яго частка распаўсюджвалася ў Мінску. Вядома 25 нумароў з 2.11.1943 да 25.6.1944 на рус. мове. Рэдактар А. Дз. Сакевіч. Газета заклікала насельніцтва горада змагацца супраць ням.-фаш. акупантаў, дапамагаць наступаючым часцям Чырв. Арміі.

**МІНСКІЯ ВАЙСКОВЫЯ ЗЛУЧЭННІ І ЧАСЦІ.** За вызваленне сталіцы БССР г. Мінска (3.7.1944) ад ням.-фаш. захопнікаў і ліквідацыю мінскага «катла» ў ходзе *Мінскай аперацыі 1944* загадамі ВГК ад 10.7.1944 (6 часцей), 23.7.1944 (45 злучэнняў і часцей) і 10.8.1944 (1 часць) ганаровае найменне «Мінскіх» атрымалі 53 вайсковыя фарміраванні 1-га, 2-га і 3-га Бел. франтоў.

Часці і злучэнні, якім нададзены ганаровыя найменні «Мінскіх»: 1-ы гвардз. знішчальны (ген.-лейт. Я. М. Бялецкі) і 3-і штурмавы (ген.-маёр М. І. Гарлачэнка) авіяц. карпусы, 1-я гвардз. стралк. дывізія (палк. П.Ф. Толсцікаў), 322-я знішчальная авіяц. дывізія (палк. М. П. Нага), 2-я гвардз. мотастралк. брыгада (падпалк. Дз. Н. Далганаў), 3-я (падпалк. К. А. Грыцэнка), 4-я (палк. А. А. Лосік), 18-я (падпалк. В. І. Есіпенка), 19-я (палк. Г. А. Пахадзееў) гвардз. танк. брыгады, 376-ы (падпалк. Ю. П. Гугуеў), 426-ы (падпалк. П. Дз. Ювак), 427-ы (маёр А. А. Хадатовіч), 490-ы (падпалк. А. М Перапяліцын), 611-ы (падпалк. І. В. Садкоўскі), 653-і (палк. Я. В. Скавародкін), 673-і (падпалк. К. Д. Даненкаў), 753-і (палк. Ф. А. Сценеў), 758-ы (падпалк. Я. Ф. Маштакоў), 1104-ы (падпалк. В. Я. Каржавін),

1106-ы (маёр В. Н. Смоляр), 1158-ы (падпалк. С. Х. Калеснікаў), 1160-ы (палк. С. В. Еўдакімаў), 1162-і (падпалк. В. А. Кананенка), 1311-ы (палк. А. А. Тулупаў), 1313-ы (падпалк. І. Дз. Яравы) і 1315-ы (маёр С. І. Голубеў) стралковыя палкі, 298-ы (маёр Ф. І. Шангарэеў) і 896-ы (падпалк. П. В. Прыходзька) арт. палкі, 401-ы гвардз. (маёр Ю. М. Сцяпанаў), 1001-ы (падпалк. М. М. Нікалаеўцаў), 1436-ы (падпалк. Р. С. Нямковіч), 1496-ы (маёр М. С. Барзенкаў) і 1500-ы (маёр Ц. П. Зотаў) самаходныя арт. палкі, 137-ы гвардз. знішчальны авіяц. полк (падпалк. В. А. Яманаў), 80-ы гвардз. (маёр І. В. Угоднікаў), 1695-ы (маёр М. Я. Серада) і 1701-ы (маёр І. М. Цёмны) зенітныя арт. палкі, 266-ы (падпалк. А. В. Казлоўскі), 273-і (падпалк. А. Ц. Пыталеў), 455-ы (маёр Р. Я. Унучка) мінамётныя палкі, 233-і (падпалк. В. В. Краўцоў) і 352-і (падпалк. П. І. Хара) знішчальныя авіяц. палкі, 110-ы бамбардзіровачны авіяц. полк далёкага дзеяння (падпалк. М. І. Гаўрылаў), 132-і пагранічны полк войск НКУС СССР (палк. А. З. Хмялюк), 28-ы (маёр К. К. Міхайлаў) і 324-ы (капітан У. І. Мікалаеў) асобныя гвардз. мінамётныя дывізіёны, 749-ы асобны знішчальны процітанк. арт. дывізіён (маёр Я. Ц. Кечка), 10-ы асобны гвардз. матацыклетны батальён (маёр І. А. Сарокін), 79-ы асобны матацыклетны батальён (маёр Т. М. Каверау), 51-ы асобны матарызаваны сапёрны батальён (маёр А. М. Мельнікаў), 121-ы (падпалк. Дз. Ф. Гудым) і 509-ы (маёр У. С. Салавей) асобныя сапёрныя батальёны, 783-я асобная рота сувязі (капітан С. П. Братчыкаў). Войскам, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Мінска, загадам ВГК ад 3.7.1944 абвешчана падзяка, у Маскве дадзены салют 24 арт. залпамі з 324 гармат. *М. І. Камінскі.*

**МІНЧАНКÓЎ** Міхей Мітрафанавіч (н. 15.1.1913, в. Каськова Мсціслаўскага р-на), поўны кавалер ордэна Славы. На фронце з 1943. Камандзір стралк. аддзялення сяржант М. вызначыўся ў баях на тэр. Літвы і Усх. Прусіі. 7—15.8.1944, адбіваючы контратакі ворага, знішчыў 15 гітлераўцаў, 17.8—25.10.1944 у абаронча-наступальных баях —19. 17.4.1945 пры адбіцці контратакі зайшоў у фланг ворага і агнём прымусіў яго адступіць, знішчыў 6 і ўзяў у палон 11 гітлераўцаў. За час вайны знішчыў 125 варожых салдат і афіцэраў. Жыве на радзіме.

**МІНЧУГÓЎ** Дзмітрый Міхайлавіч (8.11. 1911, Ульянаўск —14.5.1943), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1939. Беларус. У Айч. вайну на фронце з 1941 у складзе ВПС Чарнаморскага флоту. Камандзір авіяэскадрыллі маёр М. зрабіў 118 баявых вылетаў, з іх 41 ноччу. Эскадрылля бамбіла караблі, камунікацыі, войскі і тэхніку праціўніка на Адэскім, Перакопскім, Севастопальскім і Каўказскім участках фронту, ваен. аб'екты ў Бухарэсце; знішчыла 15 батарэй, 11 катэраў, 15 самалётаў, 250 чыг. вагонаў, 148 аўтамашын. Загінуў у баі. У г. п. Шуміліна яго імем названа вуліца, на будынку школы, дзе ён вучыўся, устаноўлена мемар. дошка.

**МІР**, гар. пасёлак у Карэліцкім р-не, на р. Міранка. За 26 км на ПдУ ад г. п. Карэлічы, за 17 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Мінск — Баранавічы, на аўтадарозе Навагрудак — Гарадзея. У 1940—56 цэнтр Мірскага р-на. 26.6.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў М. і раёне больш за 2560 чал. На тэр. раёна дзейнічалі Мірскія падп. райкомы КП(б)Б (26.11.1943—10.7.1944) і ЛКСМБ (1.10.1943—10.7.1944), *Мірскае камсамольска-маладзёжнае падполле*, партыз. брыгады 1-я Бел. кавалерыйская, імя Жукава, «Камсамолец» і Першамайская, асобны партыз. атрад Дз. І. Сямёнцава (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«Сцяг свабоды»* з сатырычным дадаткам *«Партызанскае жыгала»*. У ноч на 22.3.1944 партызаны брыгад імя Жукава і «Камсамолец» здзейснілі напад на фаш. гарнізон у М. (гл. *Мірскі бой 1944*). Вызвалены 7.7.1944 часцямі 283-й Гомельскай стралк. дывізіі (палк. В. А. Канавалаў) 41-га стралк. корпуса 3-й арміі 2-га Бел. фронту ў ходзе *Беластоцкай аперацыі 1944*. У М. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, магілы ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі. *М. І. Камінскі.*

**МІРАШНІЧЭ́НКА** Пётр Апанасавіч (26.11.1922, с. Запселле Краснапольскага р-на Сумскай вобл.— 1.1.1944), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1944. На фронце з 1941. Камандзір узвода разведкі лейтэнант М. вызначыўся пры вызваленні Гомельскай вобл. 1.1.1944 у цяжкім баі каля в. Печышчы Парыцкага р-на сваім целам закрыў амбразуру варожага дзота. Пахаваны ў г. Светлагорск Гомельскай вобл. ў брацкай магіле сав. воінаў. Яго імем названы вуліцы ў Мінску, Жлобіне, Светлагорску і на радзіме; у в. Печышчы — мемар. дошка.

**МІРКÓЎСКІ** Яўген Іванавіч (н. 31.1. 1904, Мінск), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1927. У Чырв. Арміі з 1927 у пагранічных войсках. Удзельнік абароны Масквы, камандзір роты. З сак. 1942 камандзір асобнага партыз. атрада імя Дзяржынскага («Хадакі»), які дзейнічаў на тэр. Беларусі, РСФСР і Украіны. Атрад прайшоў па тылах праціўніка 6 тыс. км. Кіраўнік дыверсійнай групы на тэр. Польшчы ў 1944. Пасля вайны да 1955 у органах КДБ, палкоўнік.

**МІРÓНЕНКА** Іван Іосіфавіч (н. 15.7. 1904, в. Чарняты, Віцебскі р-н), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1930. У партызанах з жн. 1942: камандзір дыверсійнай групы, у студз. 1943—студз. 1944 камісар *партызанскай брыгады імя М. В. Фрунзе*, адначасова ў жн. 1943—студз. 1944 сакратар Ільянскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—68 у органах міліцыі, на адм. рабоце. Ганаровы грамадзянін г. Маладзечна.

**МІ́РСКАЕ КАМСАМÓЛЬСКА-МАЛАДЗЕ́ЖНАЕ ПАДПÓЛЛЕ.** Дзейнічала з канца чэрв. 1941 да вер. 1942 у Мірскім р-не Баранавіцкай вобл. Падп. групы аб'ядноўвалі 97 чал. У чэрв.— ліп. 1941 створаны групы ў в. Пагарэлка — кіраўнік І. М. Мацко, Сіняўская Слабада — К. У. Балабановіч, Бережное — Р. М. Рускіх, Я. І. Крамко, Лядкі — А. Ф. Бянецкі. Да сярэдзіны ліп. 1941 падпольшчыкі дапамагалі часцям Чырв. Арміі, што выходзілі з акружэння (давалі праваднікоў, карты, аказвалі мед. дапамогу). У канцы чэрв. правялі да Нёмана вайсковую часць і калону бронеаўтамашын і памаглі ім пераправіцца цераз раку (І. М. Мацко і М. У. Бусько). У в. Антанёва і Быковічы арганізавалі шпіталі для цяжкапараненых (фельчар Ф. І. Клаўсуць).



П. А. Мірашнічэнка. Я. І. Мірkоўскі.

Распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі, збіралі і вывучалі зброю. Патрыёты в. Сіняўская Слабада сабралі 100 вінтовак, 2 мінамёты, 20 скрынак патронаў, падпольшчыкі в. Бережное да зімы 1942 сабралі 165 вінтовак, 2 станковых і 8 ручных кулямётаў, 2 мінамёты, 2 аўтаматы, 6 пісталетаў, шмат мін, гранат, патронаў. Вясной 1942 наладзілі сувязь з партызанамі, перадалі ім зброю і ў чэрв.— вер. пайшлі ў лес. Партыз. група ўдзельнікаў падполля ў вер. пераўтворана ў партыз. атрад «Камсамольскі», які разам з інш. атрадамі стаў базай для фарміравання *партызанскай брыгады «Камсамолец»*.

У барацьбе з ням.-фаш. акупантамі загінулі: С. С. Балабановіч, П. П. Бокач, С. М. Бокач, С. П. Бокач, А. Ф. Бянецкі, Л. Ф. Васілеўскі, У. А. Ганісіеўскі, У. У. Гінак, І. А. Клаўсуць, А. А. Камароўскі, М. А. Мажэйка, У. А. Мажэйка, А. М. Мазюк, Ф. М. Мазюк, М. М. Мацко, П. В. Навумчык, М. Ф. Парэцкі, М. У. Перавоз, В. І. Позняк, Р. М. Рускіх, М. І. Сачук, П. І. Сачук, У. М. Сачук, П. З. Сініца, К. К. Смалянка, В. І. Цярэшка, П. Дз. Уласевіч, У. В. Царук, В. І. Шудзейка. *В. С. Лазебнікаў.*

**МІ́РСКІ БОЙ 1944**, бой паміж партыз. брыгадамі імя Жукава і «Кам-

самолец» (гл. адпаведныя артыкулы) і ням.-фаш. захопнікамі ў г. п. Мір 22.3.1944.

У г. п. Мір размяшчаўся ням.-фаш. гарнізон, які налічваў каля 150 гітлераўцаў, узброеных 8 кулямётамі, мінамётамі, аўтаматамі, вінтоўкамі. План знішчэння гарнізона распрацаваны камандаваннем брыгады імя Жукава, да яго рэалізацыі была прыцягнута брыгада «Камсамолец».

Р. М. Міткевіч. М. А. Міхайлашаў.



Агульнае камандаванне аперацыяй ажыццяўляў камандзір *Стаўбцоўскага партызанскага злучэння* У. З. *Царук.* Партызаны, ведаючы пароль аховы гарнізона, у ноч на 22.3.1944 без бою праніклі ў цэнтр пасёлка, блакіравалі казарму, разграмілі ўсе ўстановы акупантаў. У выніку раптоўнага налёту на гарнізон знішчана 12 гітлераўцаў, у т. л. некалькі лётчыкаў, спалены валасная ўправа, гараж, захоплена некалькі аўтамашын, шмат коней і кароў, харчавання, медыкаментаў. Партызаны атрада імя Суворава і атрада імя Ракасоўскага, якія знаходзіліся ў засадах, знішчылі каля 2 км лініі тэлеграфна-тэлефоннай сувязі. На досвітку 22.3.1944 партызаны пакінулі пасёлак, страціўшы ў час бою 1 байца. *М. Ф. Шумейка.*

**МІСУНО́Ў** Даніла Лаўрэнцьевіч (17.1. 1899, в. Чарнецкае Шумілінскага р-на — 3.11.1959), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Вілейскай вобл. Чл. КПСС з 1939. З 1932 на адм.-гасп. і сав. рабоце. У партызанах з вер. 1942: камандзір арганізацыйнай групы, атрада, у жн. 1943— ліп. 1944 *партызанскай брыгады імя М. І. Кутузава,* адначасова ў жн. 1943— ліп. 1944 сакратар Крывіцкага падп. РК КП(б)Б. З 1944 на парт., сав. і гасп. рабоце ў Магілёўскай і Віцебскай абл.

**МІТКЕ́ВІЧ** Рыгор Мікалаевіч (6.5.1923, в. Дваранінавічы Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл.— 18.10.1959), поўны кавалер ордэна Славы. З 1944 на 1-м Бел. фронце. Камандзір стралк. аддзялення сяржант М. вызначыўся: 15.8.1944 у баях за плацдарм на левым беразе р. Вісла; 6.2.1945 пры фарсіраванні р. Одэр; 21—27.4.1945 у баі выратаваў камандзіра ўзвода, на чале ўзвода першы дасягнуў лініі абароны праціўніка, адбіў 3 контратакі, у баі за населены пункт з 5 байцамі знішчыў 18 гітлераўцаў.

**МІХА́ЙЛАШАЎ** Мікалай Апанасавіч (н. 19.12.1917, станіца Прочнаакопская Новакубанскага р-на Краснадарскага краю), адзін з кіраўнікоў партыз. руху на Беларусі. Герой Сав. Саюза (1944) Чл. КПСС з 1939. У 1939 у органах дзярж. бяспекі Пінскай вобл. З чэрв. 1941 у тыле ворага: камандзір групы, аддзялення, узвода, нам. камандзіра Чачэрскага партыз. атрада, са жн. 1942 нам. нач. разведкі *партызанскай брыгады «Уперад»* НКДБ СССР, з мая 1943 нам. камандзіра атрада, потым — *партызанскай брыгады Добрушскай імя І. В. Сталіна,* з чэрв. да кастр. 1943 чл. Добрушскага падп. РК КП(б)Б. У крас.— ліп. 1944 камандзір *партызанскай групы «Бура».* У 1944—76 у органах КДБ БССР. Аўтар кн. «Бура гневу»(1971).

**МІХАЙЛО́ЎСКІ** Анатоль Цімафеевіч (25.12.1898, в. Бутрава Руднянскага р-на Смаленскай вобл.— 3.1.1984), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Палескай вобл. Чл. КПСС з 1928. З 1923 на сав. рабоце. З пач. вайны ў тыле ворага, адзін з арганізатараў Капаткевіцкага партыз. атрада, у студз. 1942 яго камандзір. У крас. 1943— чэрв. 1944 сакратар Капаткевіцкага падп. РК КП(б)Б, адначасова чл. *Палескага падпольнага абкома КП(б)Б,* нам. камандзіра Палескага партыз. злучэння. У 1944—54 сакратар Васілевіцкага РК КП(б)Б, старшыня Петрыкаўскага райвыканкома.

**МІХАЛА́П** Макей Севасцьянавіч (1917, в. Чырвоная Слабада, Кіраўскі р-н — 30.5.1944), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1943. З 1935 на гасп. рабоце, з 1938 у Чырв. Арміі. У партызанах з снеж. 1941: радавы, нам. камандзіра, у крас. 1942 — маі 1944 камандзір *партызанскага атрада 620-га імя В. І. Чапаева,* адначасова ў ліст. 1942 — маі 1943 камандзір *партызанскай брыгады 5-й Клічаўскай.*

**МІХАЛКО́ВІЧ** Фама Сідаравіч (н. 26.2. 1912, в. Смалічы Капыльскага р-на), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Пінскай вобл. Чл. КПСС з 1941. З 1930 на прафс., гасп. і сав. рабоце. З чэрв. 1941 у органах НКУС. З кастр. 1942 у партызанах: палітрук роты, з жн. 1943 камісар атрада. У снеж. 1943— ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады імя В. У. Куйбышава,* адначасова ў ліп. 1943— ліп. 1944 сакратар Лагішынскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—73 на парт., сав. і адм.-гасп. рабоце ў Пінскай, Брэсцкай і Мінскай абл.

**МІХАЛЬКО́ЎСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з жн. 1941 да чэрв. 1942 у в. Міхалькі Гомельскага р-на, аб'ядноўвала 29 чал., з іх 13 камуністаў і камсамольцаў. Пакінутыя Гомельскім РК КП(б)Б у тыле ворага Ц. Ф. Марозаў, П. Д. Марозаў і К. В. Буры стварылі групы — кіраўнікі Ц. Ф. Марозаў, М. Я. Мацвеенка, К. В. Буры.

Падпольшчыкі ўладкавалі да акупантаў на работу старастам і пісарам сваіх людзей, якія забяспечвалі партызан і падпольшчыкаў дакументамі і разведданымі. Падарвалі аўтамашыну і знішчылі 11 гітлераўцаў, спалілі 12 мастоў, зрэзалі тэлефонныя слупы на працягу 12 км, перадалі партызанам шмат зброі, боепрыпасаў, каля 3 т зерня. Распаўсюджвалі сярод насельніцтва бліжэйшых вёсак і ў Гомелі лістоўкі і зводкі Саўінфармбюро. Падтрымлівалі сувязь з *Гомельскім партыйным падполлем.*

У лютым — сак. 1942 гітлераўцы двойчы нанеслі ўдар па арганізацыі. Былі схоплены і закатаваны Я. П. Кірэенка, А. Н. Леснікоў, А. І., У. А. і І. Я. Мацвеенкі, А. А., І. Ц. і А. К. Марозавы, М. М. і У. М. Пугачовы, І. М. Цімашэнка, Я. К. і К. Н. Цітковы. *В. С. Лазебнікаў.*

**«МІ́ХЕЛЬ»** («Michel»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партыз. атрадаў імя Шчорса, імя Дзімітрава, імя Варашылава і мясцовага насельніцтва ў Косаўскім, Бярозаўскім, Ружанскім, Пружанскім р-нах 30.8 — 4.9.1942. Праводзілася сіламі 3-га батальёна 11-га паліцэйскага палка, 3-га батальёна 15-га паліцэйскага палка, 2 матарызаваных узводаў жандармерыі, узвода процітанк. гармат. Партызаны нанеслі ўдары на варожых флангах і тыле і без страт адышлі ў суседнія лясы. 4.9.1942 карнікі атрымалі загад на правядзенне аперацыі *«Трохвугольнік».*

**МІХІЕ́ВІЧ** Леў Мікалаевіч (н. 15.6. 1920, в. Рэчкі Чэрвеньскага р-на), поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПСС з 1943. З чэрв. 1941 на Паўн., Карэльскім, Волхаўскім, 2-м Бел. франтах. Камандзір сапёрнага ўзвода старшына М. вызначыўся ў баях на Мурманскім, Кандалакшскім напрамках і на тэр. Польшчы. 17.2.1944 з аддзяленнем сапёраў зрабіў праход у драцяной загародзе і мінных палях праціўніка; 24.6.1944 разведаў агнявыя кропкі і сістэму інж. загарод ворага; 17.3.1945 у баі каля Гдыні з ахопленага агнём танка вынес параненага афіцэра. Да 1957 у Сав. Арміі, лейтэнант. Жыве ў Ленінградзе.

**МІЧУ́РЫН** Барыс Аляксандравіч (н. 1.1.1917, г. Зайсан Усходне-Казахстанскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл КПСС з 1944. У 1939—41 у Чырв. Арміі. У партызанах з крас. 1942: камандзір групы, атрада, нач. штаба, нам. камандзіра партыз. брыгады Першамайскай, у снеж. 1943— ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады «25 гадоў БССР».* З 1944 на сав. і адм.-гасп. рабоце.

**МО́ЙЗЫХ** Яўген Антонавіч (20.12. 1903, Германова Люблінскага ваяводства ПНР — 10.8.1944). Герой Сав.

Саюза (1945). Чл. КПСС з 1932. Беларус. На фронце з 1944. Камандзір кулямётнага ўзвода, ст. лейтэнант М. вызначыўся пры вызваленні Латвіі. 10.8.1944 узвод М. першы фарсіраваў р. Айвіекстэ і знішчыў агнявыя кропкі ворага, якія перашкаджалі пераправе сав. войск. У час адбіцця 5-й контратакі праціўніка, калі скончыліся боепрыпасы, М. павёў узвод у рукапашны бой, у якім загінуў. Пахаваны ў в. Калснава Мадонскага р-на Латвійскай ССР.

**«МОЛОДЕ́ЖНАЯ ПРА́ВДА»,** камсамольска-маладзёжная газета, орган *Вілейскага падпольнага абкома ЛКСМБ*. Вядомы 3 нумары за май — чэрв. 1944 на рус. мове. Рэдактар В. І. Шымановіч (1.4—5.7.1944). Выдавала камсам.-маладзёжны бюлетэнь *«Молодёжь в борьбе»*.

**«МОЛОДЕ́ЖЬ БЕЛОРУ́ССИИ В БОРЬБЕ́ ЗА РОДИНУ»,** камсамольска-маладзёжны бюлетэнь, орган *Вілейскага падпольнага абкома ЛКСМБ*. Вядома 12 нумароў за 9.1—7.5.1944 на рус. мове. Рэдактар *П. М. Альшанскі* (1.1—5.7.1944).

**«МОЛОДЕ́ЖЬ В БОРЬБЕ́»,** камсамольска-маладзёжны бюлетэнь *Вілейскага падпольнага абкома ЛКСМБ*. Выданне газ. *«Молодёжная правда»*. Вядома 6 нумароў за сак.— чэрв. 1944 на рус. мове.

**«МОЛОДО́Й МСТИ́ТЕЛЬ»,** камсамольска-маладзёжная газета, орган *Баранавіцкага падпольнага абкома ЛКСМБ*. Выдавалася ў *партызанскай брыгадзе імя В. П. Чкалава*. Тыраж 1000—1500 экз. Вядома 27 нумароў за 2.12.1943—28.6.1944 на рус. мове. Рэдактары: А. К. *Рыбакоў*, Р. І. Гужавін (з № 2, снеж. 1943— 10.7.1944).

**«МОЛОДО́Й ПАРТИЗА́Н»,** камсамольска-маладзёжная газета, орган *Беластоцкага падпольнага абкома ЛКСМБ*. Вядомы 24 нумары за 29.10. 1943—3.6.1944 на рус. мове. Тыраж 600—800 экз. Рэдактар Я. І. Качан (кастр. 1943—15.7.1944). Выпускала баявы лісток *«Вперёд на врага»*.

**МО́ТАЛЬСКАЕ КАМСАМО́ЛЬСКА-МАЛАДЗЁЖНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала ў 1941—43 на тэр. Мотальскага сельсавета Іванаўскага р-на. Аб'ядноўвала больш за 60 чал. У к-т уваходзілі І. М. Калілец (сакратар), А. К. Данілевіч, Г. А. Мінюк, С. С. Мінюк, В. Г. Міронава, М. Я. Прадун, Ц. І. Хоміч.

Падпольшчыкі праводзілі ў вёсках паліт. работу, збіралі зброю і боепрыпасы. У канцы жн. 1941 разграмілі Мотальскую гміну, у маі 1942 сарвалі вываз моладзі на катаржныя работы ў Германію. Летам 1942 частка падпольшчыкаў пайшла ў партызаны, удзельнічала ў стварэнні атрада імя Я. Г. Макарэвіча (гл. ў арт. *Партызанская брыгада імя Я. М. Свярдлова* Пінскай вобл.).

У барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў загінулі Р. А. Данілевіч, І. Дзяркач, Я. Заяленчыц, С. Кракун, К. Ксёнда, Г. П. Кузюр, Р. Маліч, В. Г. Міронава, З. Міховіч, М. Райкевіч, Ц. І. Хоміч, Х. Шыкалай. У Моталі на будынку дзіцячай бібліятэкі ў гонар падпольшчыкаў у 1975 устаноўлена мемар. дошка. *Т. Р. Чуракова.*

**МО́ТУЗ** Уладзімір Іванавіч (н. 18.2. 1924, в. Бяланавічы Петрыкаўскага р-на), поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПСС з 1963. З 1942 на Данскім, Пауд.-Зах, 2-м і 1-м Укр. франтах. Камандзір аддзялення разведкі сяржант М. вызначыўся пры вызваленні Украіны, Малдавіі, Венгрыі. 14.11. 1943 з групай разведчыкаў у тыле ворага захапіў «языка» і дакументы; 22.8.1944 знішчыў агнявую кропку праціўніка з разлікам; 17.3. 1945 з групай байцоў знішчыў варожую агнявую кропку, захапіў кулямёт і склад боепрыпасаў.


Л. М. Міхіевіч.


Я. А. Мойзых.


У. І. Мотуз.

**МО́ЎЧАН** Рыгор Андрэевіч (26.2. 1906, в. Азярычына Пухавіцкага р-на —26.11.1985), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1938. З 1930 на сав., адм.-гасп. і парт. рабоце ў Мінскай вобл. З ліп. 1941 па заданню ЦК КП(б)Б у тыле ворага, з 1942 інструктар, у маі — вер. 1943 чл. падп. міжрайкома КП(б)Б Мінскай зоны, у ліст. 1943—ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады «За Савецкую Беларусь»*. Да 1966 на парт. і адм.-гасп. рабоце.

**«МСТИ́ТЕЛЬ»,** газета, заснавана ў 1944 як орган Іўеўскага падп. РК КП(б)Б. Вядома 8 нумароў за 3.4—25.6.1944 на рус. мове. № 11 выйшаў пад назвай «Белорусский мститель». Рэдактар Л. М. Шапінскі. Пасля вызвалення выдавалася пад назвай «Луч», з 1965 «Путь Ильича», орган Іўеўскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**МСЦІСЛА́Ў,** горад, цэнтр Мсціслаўскага р-на, на р. Віхра. За 95 км на У ад Магілёва, за 19 км ад чыг. станцыі Ходасы на лініі Орша — Крычаў, вузел аўтадарог на Магілёў, Горкі, Крычаў, Чавусы, Хіславічы. 10,5 тыс. жыхароў у 1939. У сярэдзіне ліпеня 1941 на подступах да горада цяжкія абарончыя баі вялі часці 4-га паветрана-дэсантнага корпуса (ген.-маёр А. С. Жадаў) і 6-й Арлоўскай стралк. дывізіі (палк. М. А. Папсуй-Шапко) 28-га стралк. корпуса 4-й арміі. Пад націскам намнога большых сіл ворага гэтыя часці адышлі за р. Сож. 14.7.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў горадзе і раёне 1649 чал., у т. л. ў горадзе 900 чал. У М. і раёне дзейнічалі Мсціслаўскія падп. райкомы КП(б)Б (28.8—23.9.1943) і ЛКСМБ (28.8—30.9.1943), 14-я Цемналеская партыз. брыгада, асобныя партыз. атрады — 85-ы, Д. А. Журбы, П. Е. Казанакава, «Чапай» (гл. адпаведныя артыкулы), падп. патрыятычныя групы. Вызвалены 28.9.1943 часцямі 344-й стралк. дывізіі (палк. В. К. Страхаў) ва ўзаемадзеянні з 196-й асобнай танк. брыгадай (падпалк. Я. Я. Духоўны) і 54-м гвардз. мінамётным палком (маёр І. Я. Лаўрыновіч) 49-й арміі Зах. фронту ў ходзе *Смаленскай аперацыі 1943*. У горадзе пасля вызвалення размяшчаліся штабы 49-й арміі і 2-га Бел. фронту. У М. брацкія магілы сав. воінаў, магіла ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі; мемар. комплекс землякам, якія загінулі ў час Вял. Айч. вайны, мемар. дошкі ў гонар штаба 2-га Бел. фронту, які размяшчаўся ў 1943—44 у горадзе, і воінам-вызваліцелям. *М. І. Камінскі.*

**МУЗЕ́І** (ад грэч. musēion храм муз), навуковыя або навукова-асветныя ўстановы, якія ажыццяўляюць камплектаванне, захоўванне, вывучэнне і папулярызацыю помнікаў натуральнай гісторыі, матэрыяльнай і духоўнай культуры чалавечага грамадства. Адрозніваюцца па тыпах і профілях. Так, да гістарыч. профілю адносяцца агульнагістарычныя, гісторыка-рэвалюцыйныя, ваенна-гістарычныя і інш. У комплексных М. спалучаецца гістарыч. і прыродазнаўчанавуковая спецыялізацыя, для лакальных тэрыторый яны вызначаюцца як М. краязнаўчага (гісторыка-краязнаўчага) профілю. Асобную групу складаюць мемарыяльныя М. (гл. *Аршанскі мемарыяльны музей Героя Савецкага Саюза К. С. Заслонава, Віцебскі абласны музей Героя Савецкага Саюза М. П. Шмырова*). Матэрыялы, якія адносяцца да гісторыі Вял. Айч. вайны, захоўваюцца і папулярызуюцца ў М. гістарычнага комплекснага і інш. профіляў. Ваенна-гістарыч. М. закліканы збіраць, захоўваць, вывучаць, экспанаваць і прапагандаваць зброю, сцягі, тэхніку, амуніцыю, абмундзіраванне, асабістыя рэчы воінаў, дакументы, газеты, лістоўкі, фатаграфіі, франтавыя пісьмы і інш.—

рэліквіі войн, у т. л.. Вял. Айч. вайны. У рэспубліцы 6 ваенна-гістарыч. М.: *Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны* філіялы: мемарыяльны комплекс *Хатынь, Курган Славы Савецкай Арміі — вызваліцельніцы Беларусі, Музей Обальскага камсамольскага падполля, Расонскі музей баявой садружнасці, Лоеўскі музей бітвы за Дняпро, Брэсцкай крэпасці-героя* музей (уваходзіць у мемарыяльны комплекс *Брэсцкая крэпасць-герой), Музей гісторыі войск Беларускай ваеннай акругі, Музей савецка-польскай баявой садружнасці, Ваўкавыскі ваенна-гістарычны музей* імя П. І. Баграціёна, Кобрынскі ваенна-гістарычны музей імя А. В. Суворава.

Матэрыялы пра Вял. Айч. вайну экспануюцца таксама ў *Акцябрскім музеі народнай славы, Ашмянскім раённым краязнаўчым музеі імя* Ф. Багушэвіча, *Бабруйскім краязнаўчым музеі, Баранавіцкім краязнаўчым музеі, Барысаўскім краязнаўчым музеі* (філіял — Дом-музей Н. Ф. Купрыянавай), Беларускім дзяржаўным музеі сацыялістычнага пераўтварэння Палесся, *Бешанковіцкім гісторыка-краязнаўчым музеі, Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі* (філіял — *Музей партызанскай славы), Быхаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі, Бягомльскім музеі народнай славы, Бярозаўскім гісторыка-рэвалюцыйным музеі, Вілейскім гісторыка-краязнаўчым музеі, Віцебскім абласным краязнаўчым музеі* (філіялы: *Музей баявой садружнасці партызан,* Музей-пакой Героя Савецкага Саюза П. М. Машэрава, былая турма СД). *Гарадоцкім краязнаўчым музеі, Гомельскім абласным краязнаўчым музеі, Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі, Дзяржаўным музеі Беларускай ССР, Дзятлаўскім музеі народнай славы, Ельскім краязнаўчым музеі, Іканскім музеі народнай славы, Капыльскім краязнаўчым музеі, Карэліцкім раённым краязнаўчым музеі* (філіял — Музей Героя Савецкага Саюза У. З. Царука), *Касцюковіцкім краязнаўчым музеі, Клецкім гісторыка-этнаграфічным музеі, Клімавіцкім раённым краязнаўчым музеі, Клічаўскім музеі народнай славы, Крычаўскім раённым краязнаўчым музеі, Лепельскім краязнаўчым музеі, Лідскім краязнаўчым музеі, Лунінецкім раённым краязнаўчым музеі, Любанскім музеі народнай славы, Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі,* Мазырскім краязнаўчым музеі, *Мінскім абласным краязнаўчым музеі, Мядзельскім раённым музеі народнай славы, Наваполацкім гарадскім музеі, Пастаўскім раённым краязнаўчым музеі, Полацкім музеі баявой славы, Пухавіцкім раённым краязнаўчым музеі, Рагачоўскім музеі народнай славы, Рэчыцкім краязнаўчым музеі, Салігорскім краязнаўчым музеі, Светлагорскім музеі гісторыі горада, Свіслацкім раённым краязнаўчым музеі, Слонімскім раённым краязнаўчым музеі, Слуцкім краязнаўчым музеі, Столінскім раённым краязнаўчым музеі, Уздзенскім гісторыка-краязнаўчым музеі, Ушацкім музеі народнай славы, Чэрыкаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі, Шумілінскім музеі народнай славы.*

На Беларусі дзейнічае 1328 М., якія створаны і працуюць на грамадскіх асновах, у 900 з іх ёсць экспазіцыі аб Вял. Айч. вайне, 75 грамадскім М. Міністэрствам культуры БССР прысвоена званне народны музей. Асаблівую ўвагу М. надаюць патрыятычнаму выхаванню маладога пакалення, тут праводзяцца сустрэчы моладзі з ветэранамі партыі, Вял. Айч. вайны і працы, воінамі-інтэрнацыяналістамі, піянерскія зборы, уручаюцца камсамольскія білеты, маладыя воіны прымаюць воінскую прысягу, арганізуюцца паходы па мясцінах баявой і працоўнай славы. М. выдаюць даведнікі, буклеты, лістоўкі.

*Дз. М. Шымук.*

**МУЗЕ́Й БАЯВО́Й САДРУ́ЖНАСЦІ ПАРТЫЗА́Н** на Кургане Дружбы. Адкрыты 3.7.1959, за 5 км на Пн ад в. Прошкі Верхнядзвінскага р-на, на граніцы БССР, РСФСР і Латвійскай ССР. Філіял *Віцебскага абласнога краязнаўчага музея.* Пл. экспазіцыі 20 $м^2$, 170 экспанатаў. Экспазіцыя музея прысвечана баявой садружнасці, інтэрнац. адзінству сав. народа ў гады Вял. Айч. вайны. Дакументы і матэрыялы расказваюць аб нападзе фаш. Германіі на СССР, аб жорсткім акупацыйным рэжыме, устаноўленым гітлераўцамі на тэр. Асвейскага р-на Віцебскай вобл., Себежскага р-на Пскоўскай вобл., Краслаўскага і Лудзенскага р-наў Латвіі. Экспануюцца матэрыялы аб стварэнні і разгортванні падполля і партыз. руху ў краі (фатаграфіі ўдзельнікаў *Прошкаўскага камсамольска-маладзёжнага падполля.* у т. л. яго кіраўніка В. І. Лукашонка і Героя Сав. Саюза І. Я. Судмаліса, Герояў Сав. Саюза камандзіраў партыз. брыгад Асвейскай імя Фрунзе І. К. *Захарава,* «Няўлоўныя» М. С. *Пруднікава* і асобнага партыз. атрада «Баявы» В. Л. *Няклюдава,* матэрыялы, прысвечаныя армейскай разведчыцы А. П. Сураўнёвай, і інш.). Фатаграфіі, лістоўкі, карты-схемы расказваюць аб дзейнасці Калінінскага штаба партыз. руху, падпольшчыкаў г. Себежа, баявых аперацыях калінінскіх партыз. брыгад, разгроме варожага гарнізона ў в. Шкяўне латышскімі партызанамі і інш. Спец. стэнд прысвечаны аднаму з арганізатараў і кіраўнікоў падполля і партыз. руху на Беларусі, Герою Сав. Саюза П. М. *Машэраву.* Прадстаўлены дакументы і матэрыялы аб вызваленні края войскамі 1-га і 2-га Прыбалт. франтоў. У заключным раздзеле экспазіцыі матэрыялы аб увекавечанні памяці падпольшчыкаў, партызан і воінаў-вызваліцеляў, аб традыцыйных штогодніх сустрэчах б. воінаў, партызан і працоўных трох братніх рэспублік каля Кургана Дружбы.

*С. А. Гур'янава.*

**МУЗЕ́Й ГІСТО́РЫІ ВОЙСК БЕЛАРУ́СКАЙ ВАЕ́ННАЙ АКРУ́ГІ.** Музей БВА. Заснаваны ў студз. 1974, адкрыты 9.5.1978 у Мінску. Пл. 430 $м^2$, каля 2500 экспанатаў. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, размешчана ў 3 залах. У першай зале матэрыял аб пач. вайны (фатаграфіі камандуючага Зах. фронтам у пач. вайны ген. арміі Дз. Р. Паўлава, нач. штаба ген.-маёра У. Я. Клімаўскіх, чл. Ваен. савета А. Я. Фаміных, данясенне камандуючага 3-й арміяй ген. В. І. Кузняцова аб нападзе гітлераўскіх войск 22.6.1941), аб мужнасці і стойкасці воінаў Зах. фронту (з крас. 1944 — 3-і Бел. фронт) у прыгранічных баях і абарончых аперацыях у чэрв. — вер. 1941, аб гераічнай абароне Брэсцкай крэпасці (аплаўленыя цагліны крэпасці фрагменты даху з прабоінамі ад варожых куль і асколкаў, зброя абаронцаў, фатаграфіі ўдзельнікаў абароны крэпасці, у т. л. П. М. *Гаўрылава,* І. М. *Зубачова,* Я. М. *Фаміна* і інш.), аб абароне Мінска (зброя, асабістыя рэчы, фатаграфіі абаронцаў горада, у т. л. камандзіраў злучэнняў, якія абаранялі Мінск, ген. А. І. *Маўрычава,* І. М. *Русіянава,* В. А. *Юшкевіча,* палк. С. І. *Іаўлева,* палкавога камісара К. І. Філяшкіна і інш., рэшткі самалёта М. Ф. *Гастэлы,* баявыя ўзнагароды і фуражка старшага палітрука Я. Е. Ганцова, карціна «Бой абаронцаў Мінска з нямецкімі танкамі ў чэрвені 1941» Р. Віткоўскага і інш.), аб 23-дзённай абароне Магілёва (фатаграфіі і дакументы ген. Ф. А. Бакуніна, М. Ц. *Раманава,* палк. І. П. Ваяводзіна, сакратара Магілёўскага гаркома КП(б)Б А. І. Марозава, фатаграфія, 2 медалі «Залатая Зорка», ганаровая зброя, кніга «Зямля ў агні» Маршала Сав. Саюза І. І. *Якубоўскага* і інш.). Экспануюцца фатаграфія танк. экіпажа братоў Крычаўцавых, якія ўпершыню ў Вял. Айч. вайне здзейснілі танк. таран, і карціна, прысвечаная іх подзвігу, загад ген. П. А. Курачкіна аб контрнаступленні войск 2-й арміі пад Віцебскам, загад камандзіра 117-й стралк. дывізіі палк. І. Л. Хіжняка, заліты яго крывёю ў баі пад Рагачовам у 1941, сцяг 144-га кав. палка, зброя і прадметы рыштунку воінаў 75-й стралк. дывізіі, зброя ген. М. П. Дзмітрыева і І. П. Дудніка, кніга К. Сіманава «Жывыя і мёртвыя» з дарчым надпісам воінам акругі, першы загад аб прысваенні найменняў «гвардзейскіх» дывізіям Зах. фронту, фатаграфіі камандзіраў злучэнняў, якія вызначыліся ў прыгранічных баях, ген. П. М. Ахлюсціна, І. В. Болдзіна, К. М. Галіцкага, Дз. К. Маставенкі, А. С. Нікіціна, М. Г. Хацкілевіча і інш. *Смаленскай бітве 1941* прысвечана карціна мастака А. Сямёнава «Абарона Салаўёўскай пераправы». Другая зала прысвечана разгрому ням.-фаш. войск пад Масквой, вызваленню Маскоўскай і Смаленскай абл., Беларусі, разгрому Усх.-Прускай групоўкі

працаўніка. У ім экспануюцца карта-схема абароны Масквы і пастанова Дзярж. к-та абароны аб увядзенні ў сталіцы асаднага становішча, зброя, асабістыя рэчы, дакументы, фатаграфіі яе абаронцаў, у т. л. камандуючых арміямі М. Ф. Лукіна, Дз. Д. Лелюшэнкі, камандзіра 32-й стралк. дывізіі В. К. Паласухіна, камсам. білет чырвонаармейца М. І. Шутава, прабіты асколкам варожай міны, бюст ген.-маёра І. В. Панфілава, дыярама «Бой 28 панфілаўцаў з 50 нямецкімі танкамі каля раз'езда Дубасекава», газета Зах. фронту «*Красноармейская правда*» і інш. Партрэты Вярх. Галоўнакамандуючага І. В. Сталіна, камандуючага Зах. фронтам Маршала Сав. Саюза Г. К. *Жукава,* яго асабістыя рэчы і медалі «Залатая Зорка», чл. Ваен. Савета М. А. Булганіна, нач. Палітупраўлення Дз. А. Лесцьева, партрэт, асабістыя рэчы і 2 медалі «Залатая Зорка» Маршала Сав. Саюза К. К. *Ракасоўскага.* Цэнтр. месца ў зале займае фотапанарама «Хто з мячом да нас прыйдзе, ад мяча і загіне». Расказваецца аб гераізме працаўнікоў сав. тылу. Матэрыялы аб барацьбе бел. партызан супраць ням.-фаш. захопнікаў: партыз. зброя, самаробныя друкарскія станкі, газеты, лістоўкі, якія выдаваліся ў падполлі і партыз. атрадах, фатаграфіі кіраўнікоў партыз. руху П. К. *Панамарэнкі,* В. І. *Казлова,* П. З. *Калініна,* К. Т. *Мазурава,* П. М. *Машэрава* і інш. У экспазіцыі, прысвечанай вызваленню Беларусі ад ням.-фаш. захопнікаў, загад Вярх. Галоўнакамандуючага аб вызваленні Мінска, стралк. зброя, макеты баявой тэхнікі, дакументы, баявыя ўзнагароды, асабістыя рэчы, фатаграфіі ўдзельнікаў вызвалення рэспублікі, у т. л. камандуючага 3-м Бел. фронтам ген. арміі І. Д. *Чарняхоўскага,* яго грамата двойчы Героя Сав. Саюза і пісьмо да дачкі, чл. ваен. савета фронту В. Е. Макарава і нач. штаба ген. А. П. Пакроўскага, Герояў Сав. Саюза Т. М. Барамзіной, Ф. Ц. Блахіна, А. І. *Данілава,* А. А. *Лосіка,* Б. С. Акрэсціна, А. А. *Пятраева,* П. М. *Рака,* П. Р. Саенкі, Ю. В. *Смірнова,* ганаровага грамадзяніна г. Барысава М. Ф. Кузняцова, камандзіраў танк. карпусоў, якія вызвалялі Мінск, ген. А. С. Бурдзейнага, І. А. Воўчанкі, М. Ф. Панова і інш., фатаграфія сяржанта А. І. Скібы, які ўзняў сцяг над будынкам Дома афіцэраў у Мінску 3.7.1944, баявыя сцягі некаторых часцей, што вызвалялі Беларусь. Матэрыялы аб разгроме групоўкі праціўніка ва Усх. Прусіі: зварот камандавання фронту да ням. салдат і афіцэраў з прапановай добраахвотна скласці зброю, штурмавы сцяг, лістоўка «Уперад, на штурм Кёнігсберга», асабістыя рэчы, баявая зброя, узнагароды, фатаграфіі камандуючых 3-м Беларускім фронтам Маршалаў Сав. Саюза А. М. *Васілеўскага* і І. Х. *Баграмяна,* лётчыка двойчы Героя Сав. Саюза П. Я. *Галавачова,* военачальнікаў і камандзіраў А. П. Белабародава, М. М. Барсукова, А. А. Данца, С. Б. Казбінцава, А. А. Лучынскага, І. І. Люднікава, Е. А. Магілеўчыка, І. І. Сямёнава, праслаўленых снайпераў С. П. Казаковай і Р. Г. Шанінай, фатаграфія і пісьмо Героя Сав. Саюза А. А. Касмадзям'янскага, камсамольскі білет Героя Сав. Саюза І. А. Яроменкі і інш. У трэцяй зале — зале Перамогі — экспануюцца штурмавы сцяг 50-й стралк. дывізіі, узняты над рэйхстагам 1.5.1945, ордэны і медалі, якімі ўзнаг. сав. воіны, партызаны і працаўнікі тылу ў гады Вял. Айч. вайны, 11 бронзавых барэльефаў Герояў Сав. Саюза, навечна залічаных у спісы часцей БВА, штандарт зводнага палка 3-га Бел. фронту на Парадзе Перамогі, турнікет з прозвішчамі 19 двойчы Герояў Сав. Саюза і больш за 700 Герояў Сав. Саюза БВА. У астатніх залах музея адлюстравана пасляваен. жыццё акругі. У музеі маладыя воіны прымаюць ваен. прысягу, праводзяцца піянерскія зборы, прыём у



Фрагмент экспазіцыі Музея гісторыі войск Беларускай ваеннай акругі.

піянеры і камсамол, арганізуюцца сустрэчы армейскай і цывільнай моладзі з Героямі Сав. Саюза, ветэранамі вайны, Узброеных Сіл і воінамі-інтэрнацыяналістамі. Штогод музей наведваюць больш за 25 тыс. чалавек.

*А. С. Харэбін.*

**МУЗЕ́Й О́БАЛЬСКАГА КАМСАМО́ЛЬСКАГА ПАДПО́ЛЛЯ,** філіял *Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.* Адкрыты 29.10.1965 у г. п. Обаль Шумілінскага р-на. Да 3.7.1986 Обальскі музей камсам. славы. Мае 4 экспазіцыйныя залы, пл. экспазіцыі 125 м², 759 экспанатаў, у т. л. 459 асн. фонду. Расказваецца аб узнікненні і разгортванні падполля і партыз. руху ў раёне [карта-схема развіцця партыз. руху, пастанова Сіроцінскага РК КП(б)Б ад 20.8.1942 «Аб стварэнні партызанскіх падпольных партарганізацый і партызанскіх рэзерваў», лістоўкі, у т. л. лістоўка ЦК ЛКСМБ ад 11.8.1941 з заклікам арганізоўваць партыз. атрады, баявы лісток партыз. атрада імя Чапаева, фатаграфіі, асабістыя рэчы, дакументы, узнагароды партызан, брыгад імя С. М. Кароткіна і імя Леніна, сакратароў Сіроцінскіх падп. РК КП(б)Б В. М. *Фралова,* С. М. *Кароткіна,* А. У. *Сіпко* і ЛКСМБ Н. Л. Герман і Ю. А. Цярэні і інш.]. Экспануюцца матэрыялы аб баявой дзейнасці падп. арг-цыі «Юныя мсціўцы» (рашэнне падп. РК КП(б)Б аб стварэнні Обальскай падп. арг-цыі, схема дыверсій падпольшчыкаў, фотакопія пратакола пасяджэння бюро падп. райкома камсамола з рашэннем аб прыёме ў рады ВЛКСМ падпольшчыц З. М. *Партновай* і М. С. Дзяменцьевай, фотакопія данясення сакратара падп. РК ЛКСМБ Герман у Віцебскі падп. абком камсамола аб дыверсіях обальскіх падпольшчыкаў, фатаграфіі, дакументы, асабістыя рэчы ўдзельнікаў падполля, інтэр'ер кватэры кіраўніка падполля Е. С. *Зяньковай* і інш.). Экспанаты аб увекавечанні памяці обальскіх падпольшчыкаў (кнігі аб обальскім падполлі, Грамата ЦК ВЛКСМ, якой узнагароджана Обальская падп. арг-цыя, пасведчанне аб занясенні ў Кнігу гонару ЦК ВЛКСМ Обальскай падп. арг-цыі, партрэты і бюсты Герояў Сав. Саюза Зяньковай і Партновай, карціна «Обальскія падпольшчыкі» (маст. А. Каржанеўскі), літаграфіі «Мініраванне шашы» і «Узрыў вадакачкі» (маст. Ю. Пучынскі) і інш.

*Н. А. Азоліна.*

**МУЗЕ́Й ПАРТЫЗА́НСКАЙ СЛА́ВЫ.** Створаны ў 1971 ва ўрочышчы Хаван-

шчына (за 3 км ад в. Карочын Івацэвіцкага р-на), дзе ў 1943—44 базіраваліся *Брэсцкі падпольны абком КП(б)Б, Брэсцкі падпольны абком ЛКСМБ,* штаб *Брэсцкага партызанскага злучэння,* рэдакцыя і друкарня абл. падп. газеты *«Заря»;* філіял *Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея.* Размешчаны на тэр. мемар. комплексу, які ўзнаўляе абстаноўку партыз. лагера, што ўключае 4 драўляныя домікі, 2 зямлянкі, калодзеж, «лясную школу». У адным з домікаў экспанаты аб дзейнасці падп. абкома КП(б)Б і штаба партыз. злучэння, у другім — аб дзейнасці падп. абкома ЛКСМБ і барацьбе камсамольцаў і моладзі Брэстчыны супраць ням.-фаш. захопнікаў, у трэцім — аб рабоце рэдакцыі падп. газ. «Заря», у чацвёртым — аб рабоце партыз. шпіталя. На тэр. комплексу ўстаноўлены стэнды з фатаграфіямі, схемамі, тэкстам «Прысягі беларускага партызана» і інш., пры ўваходзе — вял. валун з памятным надпісам. Штогод у апошнюю нядзелю мая тут праводзіцца традыцыйная сустрэча б. партызан Брэсцкага партыз. злучэння. *Т. А. Слесарук.*

**МУЗЕЙ САВЕЦКА-ПОЛЬСКАЙ БАЯВОЙ САДРУЖНАСЦІ.** Адкрыты 15.10.1968 у в. Леніна Горацкага р-на, дзе 12—13.10.1943 адбыўся першы бой 1-й Польскай пях. дывізіі імя Т. Касцюшкі сумесна з 42-й і 290-й стралк. дывізіямі Чырв. Арміі супраць ням.-фаш. захопнікаў. Пл. экспазіцыі 907 м², 5900 экспанатаў, у т. л. 800 асноўнага фонду. Расказваецца аб фарміраванні 1-й Польскай дывізіі ў маі 1943 у сялецкіх лагерах пад Разанню, аб прыняцці прысягі польскімі салдатамі, аб прыбыцці на фронт і першым баі у в. Леніна (сцягі сав. і польскіх часцей, якія ўдзельнічалі ў баі, асабістая зброя, ордэны і медалі СССР і ПНР, якімі ўзнагароджваліся ўдзельнікі сумесных баёў, дакументы, схемы баявых аперацый, узоры зброі часоў вайны, фатаграфіі, матэрыялы аб Героях Сав. Саюза — удзельніках бою пад Леніна і вызвалення Польшчы Р. Р. Лахіне, У. *Высоцкім,* А. *Кжывань,* В. М. Барсукове, Дз. Р. Юркове, Ф. М. *Аўхачове,* А. Дз. *Шамянкове,* двойчы Героях Сав. Саюза І.І. *Гусакоўскім,* І. І. *Якубоўскім* і інш.). Асобная тэма «У адзіным страі» прысвечана баявой садружнасці воінаў Сав. Арміі і Войска Польскага ў пасляваен. час. Цэнтральнае месца ў экспазіцыі займае дыярама «Бой пад Леніна» (маст. А. Інтазараў і М. Авечкін; студыя ваен. мастакоў імя М. Б. Грэкава), у якой адлюстраваны кульмінацыйны момант — бой за вышыню 215,6. Каля ўвахода ў будынак музея ўзведзены манумент: рукі сав. і польскіх салдат моцна сціскаюць аўтамат і дрэўка баявога сцяга. На манументе надпіс: «СССР — Польшча. 1943» (на рус. і польскай мовах). Музей уваходзіць у *Мемарыяльны комплекс савецка-польскай баявой садружнасці.* *А. С. Фядосенка.*



У адной з залаў Музея Обальскага камсамольскага падполля.



Музей партызанскай славы ва ўрочышчы Хаваншчына. У зямлянцы.

**МУ́ЗЫКА.** Савецкае мастацтва перыяду Вял. Айч. вайны, у т. л. музычнае, абвергла афарызм: «Калі пушкі страляюць, музы маўчаць». За гады вайны сав. кампазітары стварылі значныя творы, якія адлюстроўвалі грандыёзныя ўзрушэнні ваен. гадоў і вялікасць чалавечага духу. Музычнай эмблемай Вял. Айч. вайны стала песня «Свяшчэнная вайна» А. Аляксандрава на словы В. Лебедзева-Кумача і 7-я («Ленінградская») сімфонія Дз. Шастаковіча. Гераіка-патрыятычная тэма, якая стала гал. у сав. музыцы тых гадоў, абумовіла і змест творчасці бел. кампазітараў ваен. часу. Яны працавалі ва ўсіх жанрах, але гал. чынам у галіне вакальнай музыкі. Створаны харавыя заклікальна-гераічныя масавыя песні ў духу паходнага марша («Калі над Радзімай» А. Багатырова і «Песня беларускіх партызан» Я. Цікоцкага на словы П. Броўкі, «Беларуская партызанская» І. Любана і «Песня мінаеўцаў» Р. Пукста на словы А. Астрэйкі, «Праз лясы, балоты і паляны» М. Аладава на словы М. Танка, і інш.), драматычныя маналогі («Дарагая мая Беларусь» Багатырова на словы П. Панчанкі, «Партызанам Палесся» Цікоцкага на словы М. Машары), песні і рамансы, у якіх перадаюцца асабістыя перажыванні, звязаныя з ваен. падзеямі («Помню, помню тыя росы» Любана на словы К. Крапівы, «Над пушчаю вечар» Пукста на словы Панчанкі, «Утаплю я гора» Цікоцкага на словы Астрэйкі). Дзейснай зброяй мастацтва таго часу ў барацьбе з ворагам была сатыра, што знайшла адлюстраванне і ў бел. музыцы. Карыкатурная завостранасць, гратэскны характар уласцівыя сатырычным маналогам-плакатам Аладава «Леў і кот» на словы М. Слабадскога і «Пра храбрага рыцара» на словы А. Кузняцова. Асаблівае месца ў вак. музыцы тых гадоў належыць лірыцы. У жорсткай схватцы паліт. сістэм, сярод разбурэнняў і смерці лірычныя песні і вершы пасвойму сцвярджалі ідэалы гуманізму, нагадваючы пра светлыя чалавечыя пачуцці. Пранікнёнасць і душэўная цеплыня характэрны рамансам Пукста «Шоўкавыя травы» на словы Астрэйкі і «Як у лесе зацвіталі» на словы Я. Купалы. Песні і рамансы, створаныя бел. кампазітарамі ў гады вайны, сталі гіст. дакументам эпохі, адлюстравалі вядучыя тэндэнцыі ў развіцці сав. вакальнай музыкі таго часу, нягледзячы на некаторую абмежаванасць іх мастацкіх вартасцей. Больш значныя поспехі дасягнуты ў музычных творах буйных жанраў. Палымяным заклікам да барацьбы з ворагам прагучалі вершы Я. Купалы «Беларускім партызанам», якія Багатыроў паклаў у аснову аднайменнай кантаты для хору, салістаў і аркестра (1942). Гераіка-патрыятычная ідэя твора раскрываецца ў кантрастным супастаўленні вобразаў суровых, журботных, мужна-гераічных і лірычных. У музычнай мове кантаты адчуваецца сувязь з напевамі бел. нар. рэкруцкіх песень. Нацыянальны па каларыце, драматычна выразны твор апявае духоўную стойкасць нашага народа, яго несакрушальную веру ў перамогу над ворагам. Тэме інтэрнацыянальнага адзінства народаў Сав. Саюза ў гады цяжкіх выпрабаванняў прысвечана кантата «Ленінградцы» Багатырова на вершы Джамбула Джабаева (1942). Тэма барацьбы з фашызмам шматгранна адлюстравана ў тагачаснай бел. сімфанічнай музыцы. Вобразная канкрэтнасць, яснасць драматургічнай задумы ярка выявіліся ў творах праграмнай сімфанічнай музыкі, у ліку якіх сімфонія-балада «У суровыя дні» Аладава (1942), змест якой раскрываецца ў вобразным пераасэнсаванні музычнай тэмы: свет-

лая лірыка-пастаральная тэма ў развіцці паступова драматызуецца і набывае трагічныя рысы, а ў заключным раздзеле на яе аснове нараджаюцца велічныя вобразы, што сімвалізуюць перамогу сіл дабра і гуманізму. Змест сюіты «Памяці Вялікай Айчыннай вайны» М. Чуркіна (1944) раскрываюць праграмныя падзагалоўкі частак: «Нашэсце», «Мара аб родным краі», «Памяці герояў», «Вяртанне ў Мінск». Водгукам на разгром фашыстаў на берагах Волгі стала драматычная Уверцюра-фантазія В. Залатарова (1943). Легендарнаму лётчыку М. Гастэлу прысвечаны канцэрт для скрыпкі з аркестрам П. Падкавырава (1941). Значнай падзеяй у бел. музыцы ваен. перыяду з'явілася опера «Алеся» (1941) Ціхоцкага на лібрэта Броўкі — першая ў краіне опера на тэму партыз. барацьбы. Яна задумана як нар. музычная драма з канфліктнай драматургіяй. Найбольш выразныя ў ёй жанрава разнастайныя нар. хоры, музычная мова якіх блізкая да бел. фальклору. Пастаноўка оперы Дзярж. тэатрам оперы і балета БССР у вызваленым Мінску ў канцы 1944 г. стала падзеяй вял. патрыятычнага гучання. У перапрацаваным выглядзе опера неаднаразова ставілася на сцэне тэатра ў наступныя гады (музыка адзначана Дзярж. прэміяй БССР 1968). Народна-нац. элемент у музычным стылі твораў, напісаных у гады Айч. вайны, быў яскравай прыкметай часу, калі зварот да фальклору, у якім увасоблены думы, светаадчуванне, высокі этас народа, набываў ідэалагічны і грамадзянскасны сэнс.

Тэма Айч. вайны, велічнасці подзвігу народа і памяці аб героях застаецца адной з вядучых і ў бел. музыцы пасляваен. часу, атрымліваючы усё новыя вырашэнні ў творах кампазітараў розных пакаленняў і індывідуальных стыляў. Сярод найб. яркіх яе ўвасабленняў у жанры песні — «Лясная песня» У. Алоўнікава на словы А. Русака, якая фалькларызавалася, стала ў народзе найб. папулярнай. Творча развіваючы традыцыі сав. песеннай героікі і апіраючыся на стылістыку армейскіх і партыз. песень, Алоўнікаў стварыў песні, што ўслаўляюць подзвігі герояў: «Песню аб Брэсцкай крэпасці», «Песню пра Гастэлу», «Песню пра Даватара» на словы А. Лазнявога, «Партызанскую паходную» на словы К. Кірэенкі, «Песню пра Заслонава» на словы Астрэйкі і інш. З 1960-х г. гал. у песнях пра Вял. Айч. вайну стала тэма памяці, асэнсаванне мінулага з сучасных пазіцый, што выклікала і новую інтанацыю роздуму. Часта песня перарастала ў ліра-эпічнае апавяданне. Блізкасць да нар. балады, лірычны тон выказвання, меладычная выразнасць і душэўная адкрытасць уласцівыя песням І. Лучанка «Памяць сэрца», «Пісьмо з 45-га», «Майскі вальс» на словы М. Ясеня, «Каб камяні маглі гаварыць» на словы Р. Раждзественскага, «Хатынь» на словы Р. Пятрэнкі, Дз. Смольскага «Абелісні» на словы Ясеня, Э. Зарыцкага «Замошская рота» на словы У. Паўлава і «Набат цішыні» на словы Дз. Міхлеева, Л. Захлеўнага з цыкла «Памяць» на вершы бел. паэтаў і «Гісторыя аднаго кахання» на словы Ясеня, Ю. Семянякі «Дарыце цюльпаны» на словы А. Бачылы і «Травы дзяцінства» на словы У. Дзямідава, Э. Ханка «Два полі» на словы А. Вярцінскага. Арыгінальную спробу стварэння буйной вакальна-інструментальнай кампазіцыі на аснове сінтэзу рок-музыкі і бел. муз. фальклору зрабіў кіраўнік Дзярж. бел. эстраднага ансамбля «Песняры» У. Мулявін у песенным цыкле «Праз усю вайну» на вершы сав. паэтаў. Пафасам публіцыстыкі ўзбагачае ваен. тэматыка бел. камерна-вакальную музыку, у т. л. вакальныя цыклы Л. Абеліёвіча «Ваенныя балады» на словы С. Яўсеевай, С. Віленскага і Абеліёвіча «Партызанскія балады» на словы У. Дубоўкі, вакальны цыкл Лучанка «Вайна не патрэбна!» на словы В. Шэфнера, Р. Пажаняна і Ю. Кашталяна (1982). Шырока развіта яна і ў бел. харавой музыцы (хоры Г. Вагнера, Дз. Смольскага, Э. Тырманд, Л. Шлег і інш.). У музычным тэатры першых пасляваен. гадоў адчувалася імкненне да дакументальнасці, сцэнічнага ўвасаблення сапраўдных падзей і лёсу канкрэтных людзей. Прататыпам героя оперы «Андрэй Касценя» Аладава (1948, лібрэта Броўкі) з'яўляецца К. Заслонаў. Геранічнаму ўчынку бел. школьнікаў, якія ратавалі піянерскі сцяг у гады акупацыі рэспублікі ням.-фаш. захопнікамі, прысвечана рам оперы і балета БССР, 1980). Сумяшчэнне часавых планаў мінулага і сучаснасці, ёмістыя паэтыч. сімвалы, уключэнне ў музычную драматургію кінематаграфічных прыёмаў абумовілі своеасаблівасць твора. Тэма Айч. вайны адлюстравана і ў творах, напісаных бел. кампазітарамі ў жанры геранічнай музычнай камедыі, сярод якіх «Пяе «Жаваранак» Семянякі (1969, лібрэта Н. Калаптур і П. Харкова) і «Судны час» Р. Суруса (1984, лібрэта А. Макаёнка і А. Вольскага паводле п'есы Макаёнка «Трыбунал»), пастаўленыя Дзярж. тэатрам музычнай камедыі БССР. Значная частка твораў вакальна-сімфанічнага жанру пасляваен. гадоў прысвечана подзвігам герояў вайны. Паэма А. Куляшова «Балада аб чатырох заложніках» аб трагічнай гібелі дзяцей камандзіра партыз. брыгады Бацькі Мінаая (Шмырова М. Ф.) увасоблена ў аднайменнай кантаце Падкавырава (1954), геранічнай дзейнасці К. С. Заслонава прысвечана кантата «Памяці Канстанціна Заслонава» Семянякі (1958, словы М. Алтухова). У гэтым і многіх інш. музычных жанрах тэма вайны паўстае як тэма памяці. Значную сілу мастацкага абагульнення яна атрымала ў прысвечанай памяці ахвяр фашызму вакальна-сімфа-



Фрагмент экспазіцыі Музея савецка-польскай баявой садружнасці.

першая на Беларусі дзіцячая опера «Марынка» Пукста (1955, лібрэта Э. Агняцвет). Дакументальная і сюжэтная аснова балета У. Кандрусевіча «Крылы памяці» (1983, лібрэта В. Елізар'ева), прысвечанага А. Ф. Купрыянавай, маці пецярых сыноў, загінуўшых у баях за вызваленне Радзімы. Паглыбленне ідэйна-вобразнага зместу ў вырашэнні тэмы вайны бел. музычным тэатрам звязана са зваротам бел. кампазітараў да прозы В. Быкава, па матывах аповесці якога «Альпійская балада» Я. Глебаў стварыў аднайменны балет (1967, лібрэта Р. Чарахоўскай, паст. 1967, Мінск; 1972, Чэлябінск). Востраканфліктная драматургія, дынамічнасць развіцця музыкі балета набліжаюць яго да драматычнай сімфоніі. Па матывах аповесці «Воўчая зграя» Быкава стварыў оперу «Сцежкаю жыцця» Вагнер (1960, лібрэта Вярцінскага і С. Штэйна, паст. Дзярж. тэатнічнай паэме «Вечна жывыя» Вагнера (1959), дзе развіццё музычнай драматургіі заснавана на кантрастным супастаўленні гратэскнага марша-нашэсця ворага і рэквіема, інтанацыйна звязанага з бел. нар. песняй. У паэме адчуваецца новая ў сав. музыцы тэндэнцыя адлюстравання тэмы Вял. Айч. вайны, для якой характэрна ўзмацненне трагічнага, паглыбленне псіхалагічнага пачатку. У 1960-я г. ў бел. музыцы пры развіцці ваен. тэмы намеціліся рысы экспрэсіянізму, выявілася імкненне да расшырэння тэматыкі за кошт звароту кампазітараў да гіст. падзей інш. краін і народаў, што характэрна для камернай араторыі «Песні Хірасімы» Смольскага (1966) на вершы японскіх паэтаў, вакальна-сімфанічнай паэмы «Попел» С. Картэса (1966, на словы літоўскага паэта Э.Межэлайціса), сімфоніі-араторыі «Эроіка» А. Янчанкі (1966), дзе кампазітар выкарыстаў

тэксты Ю. Фучыка і П. Элюара. У музыцы 1970—80-х г. легендарныя вобразы гераічнага мінулага атрымалі праламленне ў вакальна-сімфанічных паэмах «Героям Брэста» Вагнера на словы Р. Барадуліна (1975, прэмія Ленінскага камсамола Беларусі 1976) і «Памяці герояў» (1975) Суруса, літаратурнай асновай якой сталі тэксты надпісаў на помніках Мамаева кургана, Марсава поля, на сценах Брэсцкай крэпасці, у араторыях «Памяць Хатыні» В. Войціка (1973) на словы Г. Бураўкіна і Р. Тармолы і «Хатынь» К. Цесакова (1974) на словы Ф. Жычкі, рэквіеме «Памятайце» Шлег (1982) па матывах кнігі «Я з вогненнай вёскі» А. Адамовіча, Я. Брыля і У. Калесніка.

Напярэдадні 40-годдзя Перамогі сав. народа ў Вял. Айч. вайне паявіліся новыя значныя творы бел. кампазітараў, у т. л. манументальная гераіка-эпічная араторыя «Бітва за Беларусь» Багатырова (1964) на вершы бел. паэтаў, сімфонія-араторыя «Партызанскія песні» Алоўнікава (1985) на вершы паэтаў-партызан, вакальна-сімфаніч. паэма «Памяць» В. Помазава (1984) на нар. тэксты. Разнастайнае праламленне атрымала тэма Вял. Айч. вайны ў бел. сімфанічнай музыцы пасляваен. перыяду. Як апавяданне аб суровых падзеях ваен. мінулага ўспрымаецца 1-я сімфонія Багатырова (1946), вырашаная ў традыцыях гераіка-эпічнага сімфанізму. Філасофскае асэнсаванне тэма вайны атрымала ў лірыка-драматычных сімфоніях — 6-й Аладава (1960) і 3-й Абеліёвіча (1967), дзе ў канфліктным процістаўленні сутыкаюцца мужна-гераічныя і злосна-агрэсіўныя музычныя вобразы. Значнае месца ў сімфанічным жанры па-ранейшаму займае праграмная музыка, пераважна эпічна-карцінны тып сімфанізму. Гэта ўласціва для паэм «Партызанская быль» Алоўнікава (1953) і «Пахаванне Хатыні» А. Мдывані (1971), дзе вял. роля належыць момантам гукапісу, характарыстычнасці музыкі, пры ўспрыманні якой узнікаюць выразныя зрокавыя асацыяцыі. Яркімі карціннымі кантрастамі насычана 1-я «Партызанская» сімфонія Глебава (1958), у якой тэма ўспамінаў атрымлівае лірыка-драматычнае ўвасабленне. Своеасабліва пераўтворана тэма вайны, памяці пра яе ахвяры ў канцэрце для камернага аркестра Войціка (1974) і сімфанічнай сюіце «Мемарыял» У. Дарохіна (1984), дзе фальклорныя інтанацыі развіваюцца ў традыцыйных старадаўніх муз. формах, у нацыянальным падкрэслены рысы агульначалавечага.

Беларускія музычныя дзеячы, як і ўвесь сав. народ, былі актыўнымі абаронцамі Радзімы. На розных франтах ваявалі цяпер вядомыя кампазітары і музыказнаўцы Л. Абеліёвіч, Р. Анчыкаў, Г. Глушчанка, Я. Дзягцярык, Дз. Жураўлёў, І. Любан, Л. Мухарынская, І. Нісневіч, У. Алоўнікаў, М. Русін, Ю. Семяняка і інш., загінуў на фронце А. Папоў. Дзейнасць бел. музычных калектываў і асобных кампазітараў і выканаўцаў у эвакуацыі зрабіла пэўны ўплыў на развіццё музычнага жыцця гарадоў саюзных рэспублік. Частка калектыву Дзярж. тэатра оперы і балета БССР працавала ў г. Горкім, а потым у Каўрове (Уладзімірская вобл.), дзе ў канцэртным выкананні былі паказаны шматлікія класічныя оперы і опера Цікоцкага «Алеся». Артысты тэатра выступалі ў оперных тэатрах Свярдлоўска, Куйбышава, Алма-Аты, Саратава, Ташкента і інш. Бел. дзярж. ансамбль песні і танца пад кіраўніцтвам Р. Шырмы (Дзярж. акадэмічная харавая капэла БССР імя Р. Р. Шырмы) выступаў з патрыятычнай праграмай «За Радзіму» і бел. нар. песнямі на Урале, у Сібіры, Сярэдняй Азіі, у 1943 вярнуўся на Беларусь (Гомель), абслугоўваў воінаў 1-га Бел. фронту і насельніцтва вызваленых раёнаў. З канцэртнай брыгадай Казахскай дзярж. філармоніі выступаў цымбаліст І. Жыновіч, кампазітар Аладаў выкладаў у Саратаўскай кансерваторыі, Багатыроў — у Свярдлоўскай. Вагнер працаваў канцэртмайстрам Таджыкскай філармоніі, Тырманд — у Кіргізскім тэатры оперы і балета, музычным і харэаграфічным вучылішчах у г. Фрунзе. Працуючы ў саюзных рэспубліках, бел. кампазітары звярталіся да фальклору братніх народаў. Чуркін апрацаваў 100 таджыкскіх нар. песень, захаваўшы іх нацыянальны каларыт, Цікоцкі апрацаваў башкірскія нар. песні, А. Клумаў разам з узбекскімі кампазітарамі ўдзельнічаў у стварэнні музычнай драмы «Меч Узбекістана». У Вял. тэатры СССР выступалі бел. артысты Л. Александроўская, А. Арсенка, І. Балоцін і інш. У 1942 на сцэне музычнага тэатра імя К. С. Станіслаўскага і У. І. Неміровіча-Данчанкі паказаны мантаж «У Купальскую ноч» з фрагментаў опер «Міхась Падгорны» Цікоцкага, «Кветка шчасця» Туранкова і балета «Салавей» М. Крошнера. У 1943 у Маскве паказана опера «Алеся» ў канцэртным выкананні. У 1944 у зале імя П. І. Чайкоўскага адбыўся канцэрт бел. музыкі з удзелам Бел. дзярж. ансамбля песні і танца. Многія бел. кампазітары, спевакі і інструменталісты працавалі ў канцэртных брыгадах (гл. *Акцёрскія франтавыя брыгады*). З сярэдзіны 1943 паступова вярталіся да мірнага жыцця ўстановы культуры, музычныя калектывы і арг-цыі рэспублікі. У 1943—45 аднавілі дзейнасць Саюз кампазітараў БССР (да канца 1944 у Маскве), Дзярж. тэатр оперы і балета БССР (да канца 1944 у Горкім), Бел. дзярж. філармонія, пры якой, акрамя існаваўшых раней Бел. ансамбля песні і танца і Дзярж. джаз-аркестра, створаны Дзярж. смычковы квартэт. У 1944 узнавілі работу музычныя школы і вучылішчы рэспублікі, Бел. дзярж. кансерваторыя, створаны Палескі абл. ансамбль песні і танца, у 1945 адкрыта Бел. дзярж. харэаграфічнае вучылішча.

**МУЛЬТА́Н** Мікалай Мікалаевіч (24.11. 1900, в. Някрасаўшчына Івацэвіцкага р-на — 19.9.1975), Герой Сав. Саюза (1944), ген.-лейтэнант (1955). Чл. КПСС з 1919. У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Бел. ваен. школу імя ЦВК БССР (1927), Вышэйшыя акадэмічныя курсы пры Ваен. акадэміі Генштаба (1951). У Айч. вайну з ліп. 1941 на Зах., 2-м і 3-м Бел. франтах, камандзір стралк. палка, дывізіі, корпуса. Удзельнік баёў пад Масквой, вызвалення Смаленска, Калініна, Магілёва, Гродна, фарсіравання Проні, Басі, Дняпра, Бярэзіны, Нёмана, штурму Кёнігсберга. У чэрв. 1944 умела камандаваў часцямі корпуса пры фарсіраванні Дняпра ў Магілёўскай вобл. і ўтрыманні плацдарма на яго правым беразе. Да 1959 у Сав. Арміі. Яго імем названа вуліца ў г. Беразіно.

**МУЛЯ́РАЎСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1942,** бой партыз. атрадаў «гарнізона Ф. І. Паўлоўскага» (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 123-я Акцябрская імя 25-годдзя БССР)* супраць ням.-фаш. захопнікаў на чыг. ст. Муляраўка на лініі Жыткавічы — Калінкавічы 22.2. 1942.

У выніку баявой разведкі і агентурных даных камандаванню «гарнізона Паўлоўскага» стала вядома, што на ст. Муляраўка знаходзіцца 40 гітлераўцаў з будаўнічага батальёна, якія прыбылі у Петрыкаў для аднаўлення чыгункі. З мэтай зрыву аднаўленчых работ камандзір гарнізона Паўлоўскі загадаў атрадам «Чырвоны Кастрычнік» (камандзір Э. Я. Чырлін), А. Ф. Каваленкі, І. Р. Жулегі і Капаткевіцкаму (А. Ц. *Міхайлоўскі)* разграміць гарнізон ворага на ст. Муляраўка.

Аперацыяй кіравалі Паўлоўскі і камісар брыгады С. В. *Маханько*. Да раніцы 21.2.1942 партыз. атрады сканцэнтраваліся ў в. Залессе Акцябрскага р-на. Атрад Міхайлоўскага правёў разведку і ўдакладніў сілы, узбраенне, агнявыя сродкі і ўмацаванні праціўніка. 22.2.1942 да 7 гадз раніцы партызаны акружылі станцыю, падышлі да казармы, у якой размяшчаліся гітлераўцы, і адкрылі агонь. Праціўнік упарта супраціўляўся больш за гадзіну, 29 гітлераўцаў забіта, 8 узята ў палон. У выніку аперацыі аднаўленчыя работы на гэтым участку чыгункі былі сарваны. Разгром фаш. гарнізона на ст. Муляраўка — адна з першых баявых аперацый партызан на чыг. камунікацыях праціўніка. *М. У. Філімоненкаў.*

**МУРАВІ́ЦКІ** Лука Захаравіч (31.12. 1917, в. Доўгае Салігорскага р-на — 30.11.1941), Герой Сав. Саюза (1941). Чл. КПСС з 1938. Скончыў Бары-

саглебскае ваен. авіяц. вучылішча (1938). На фронце з чэрв. 1941. Пілот знішчальнага авіяпалка, ст. лейтэнант М., абараняючы Ленінград, збіў 3 самалёты праціўніка. 3.9.1941 тараніў бамбардзіроўшчык; неаднойчы суправаджаў транспартныя самалёты ў блакіраваны горад, з паветра прыкрываў разгрузку чыг. эшалонаў. Загінуў у баі. Яго імем названа вуліца ў в. Доўгае.

**МУРАГІ**, вёска на тэр. Ушацкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1 км на ПнЗ ад в. Малыя Дольцы Вялікадалецкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 32 чал. 13.5.1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 34 жыхары, у т. л. 17 дзяцей, вёску (9 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1964 на месцы вёскі і на магіле ахвяр фашызму пастаўлены стэлы. Вёска ўвекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**МУРАЎЁЎ** Міхаіл Васілевіч (15.5. 1919, в. Нараўшчызна Мазырскага р-на — 19.5.1981), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1943. З 1941 на Паўн., Варонежскім, 1-м Укр., Бел., 1-м Бел. франтах. Камандзір батарэі мал. лейтэнант М. вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра каля г. Пераяслаў-Хмяльніцкі. У кастр. 1943 батарэя фарсіравала раку, замацавалася на плацдарме і адбіла контратакі ворага. У баях 8 і 12.10.1943 знішчыла мінамётную батарэю, 3 гарматы, 4 мінамёты, 16 кулямётаў. Пасля вайны на гасп. рабоце.

**МУРА́ШКА** Аляксандр Іванавіч (н. 13.8.1903, в. Цярэшына Барысаўскага павета), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай і Беластоцкай абл. Чл. КПСС з 1926. З 1939 у Чырв. Арміі. У партызанах з ліст. 1942: камісар атрада, у чэрв. 1943— сак. 1944 *партызанскай брыгады імя В. І. Чапаева,* у крас.— ліп. 1944 в. а. камандзіра атрада, адначасова у сак.— ліп. 1944 чл. Чыжаўскага падп. міжрайкома КП(б)Б.

**МУРАШО́Ў** Аляксей Георгіевіч (н. 11. 12.1915, в. Паўлаўка Ачынскага р-на Краснаярскага краю), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай і Баранавіцкай абл. Чл. КПСС з 1939. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. З жн. 1941 кіраўнік групы *Дзяржынскага партыйна-камсамольскага падполля.* З сак. 1942 у партызанах: камандзір групы, з вер. 1942 камісар атрада, у ліст. 1942— ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна.* З 1944 на адм., парт. і гасп. рабоце ў Мінску і Віцебскай вобл.

М. М. Мультан. Л. З. Муравіцкі. М. В. Мураўёў. Л. І. Мусцейкіс. В. П. Мухін. К. Р. Мышкоў.



**МУСЦЕ́ЙКІС** Леанід Іванавіч (1911, в. Усомля Полацкага р-на — 10.10. 1944), герой Вял. Айч. вайны. Чл. КПСС з 1944. З чэрв. 1941 на Паўн., Карэльскім франтах, Паўн. флоце. Электрык-пражэктарыст асобнага кулямётнага батальёна марской пяхоты старшына М. у час штурму ўмацаваных вышынь храбта Муста-Тунтуры 10.10.1944 кінуўся на амбразуру варожай агнявой кропкі і закрыў яе сваім целам. Пасмяротна ўзнаг. ордэнам Айч. вайны II ступені.

**МУ́ХІН** Васіль Піліпавіч (31.12.1917, в. Кунтараўка Веткаўскага р-на — 17.7.1984), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1944. З 1942 на Паўд., Варонежскім, Сцяпным, 2-м Укр. франтах, ст. лейтэнант, камандзір звяна знішчальнага авіяпалка. Удзельнік Курскай бітвы, вызвалення Украіны, Малдавіі, Румыніі, Венгрыі, Аўстрыі. Зрабіў 340 баявых вылетаў, правёў 177 паветр. баёў, збіў 19 варожых самалётаў. З 5.7.1943 да 22.6. 1944 прыкрываў у паветр. баях самалёт І. М. *Кажадуба,* дапамог яму збіць 45 самалётаў праціўніка. Да 1957 у Сав. Арміі, падпалкоўнік. Ганаровы грамадзянін г. Бельцы Малдаўскай ССР.

**«МЫ ОТОМСТИ́М»**, газета, заснавана ў 1931 пад наз. «Камунар Заслаўшчыны». У час ням.-фаш. акупацыі орган Заслаўскага падп. РК КП(б)Б. Вядома 35 нумароў за 9.6.1943—20.5. 1944 на рус. мове. Рэдактары А. Л. Матусевіч, Ф. В. Ерастаў (з ліп. 1943). Пасля вызвалення выдавалася да 1959 пад назвай «Калгаснік Заслаўшчыны», орган Заслаўскага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**МЫ́ЛЬНІЦА**, вёска на тэр. Лагойскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на Пн ад в. Забярозаўка Чырвонашвабаўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 26 чал. У 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 26 жыхароў, вёску (7 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. На яе месцы пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**МЫШКО́Ў** Канстанцін Раманавіч (30. 9.1893, в. Горкі Расонскага р-на — 10.8.1942), ген.-лейт. артылерыі (1940). Чл. КПСС з 1918. У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. З 1937 у Арт. упраўленні РСЧА: нач. аддзела, пам. і нам. начальніка, нач. упраўлення арт. баз і арсеналаў, з 1942 нам. нач. Гал. арт. ўпраўлення. Памёр ад ран на Сталінградскім фронце.

**МЭ́ТЭ** Казімір Юльянавіч (н. 27.1. 1905, в. Бараўляны Мінскага р-на), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў *Магілёўскага партыйна-камсамольскага падполля.* Чл. КПСС з 1965. Скончыў Ленінградскі пед. ін-т імя Герцэна (1931). З 1927 настаўнік у Барысаўскім р-не, Мінску, Магілёве. Пакінуты ў горадзе для вядзення падп. барацьбы, арганізатар і кіраўнік Магілёўскага «Камітэта садзейнічання Чырвонай Арміі». У крас. 1943 — чэрв. 1944 у рэдакцыі газ. *«Партизанская правда»* — органа Магілёўскага падп. РК КП(б)Б. З 1944 выкладчык

Магілёўскага пед. ін-та, у 1948—64 дырэктар, завуч Бараўлянскай сярэдняй школы Мінскага р-на.

**МЯДЗВЕ́ДЗЕЎ** Анатоль Данілавіч (4.3.1907, в. Цюмінёўка Балашоўскага р-на Саратаўскай вобл.— 6.4.1980), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Вілейскай вобл. Чл. КПСС з 1943. Скончыў Варонежскі хіміка-тэхналагічны ін-т (1934). Працаваў у харчовай прамысловасці. З снеж. 1941 на Калінінскім фронце. У партызанах з крас. 1942: камандзір групы, роты, з ліп. 1942 нач. штаба партыз. брыгады Асвейскай імя Фрунзе, камандзір атрада, з кастр. 1942 батальёна, аб'яднаўшага групу атрадаў, у сак. 1943— чэрв. 1944 камандзір *партызанскай брыгады імя ЦК КП(б)Б*, адначасова чл. Докшыцкага падп. РК КП(б)Б. У 1945—74 у сістэме прамысловага будаўніцтва.

**МЯ́ДЗЕЛ**, гар. пасёлак, цэнтр Мядзельскага р-на, паміж воз. Мястра і Баторына. За 140 км на ПнЗ ад Мінска, за 31 км ад чыг. станцыі Княгінін на лініі Маладзечна — Полацк, на аўтадарозе Мінск — Нарач, аўтадарогамі звязаны з Вільнюсам, Докшыцамі, Паставамі. У 1940—44 вёска. 2.7.1944 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў М. і раёне загубілі 420 чал., 3079 чал. вывезлі на катаржныя работы ў Германію. У М. і раёне дзейнічалі падп. антыфаш. групы, Мядзельскія падп. райкомы КП(б)Б (17.10.1943—4.7.1944) і ЛКСМБ (24.12.1942—4.7.1944), партыз. брыгады імя Варашылава, імя Даватара, імя Ракасоўскага, імя Будзённага, якія ўваходзілі ў *Вілейскае партызанскае злучэнне*, і асобныя партыз. атрады «Баявы», «Трэція» (гл. адпаведныя артыкулы). На тэр. раёна каля в. Чарэмшыца базіраваліся Вілейскія падп. абкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, выдаваліся падп. газеты *«Сялянская газета»*, *«Молодёжная правда»*, бюлетэнь *«Молодёжь Белоруссии в борьбе за Родину»*; з восені 1943 у раёне дыслакацыі брыгады імя Варашылава базіравалася аператыўная група ЦК КП(б) Літвы; каля в. Лужы ў 1943 знаходзіўся партыз. аэрадром. Партызаны неаднаразова (восень 1942, лета 1943) нападалі на варожы гарнізон (да 300 салдат і афіцэраў) у М., з снеж. 1943 брыгада імя Варашылава блакіравала яго і ўтрымлівала да падыходу часцей Чырв. Арміі. Вызвалены 4.7.1944 партызанамі брыгады імя Варашылава (камандзір І. Н. Крысаў) і воінамі 850-га стралк. палка (палк. Дз. К. Марозаў) 277-й стралк. дывізіі 72-га стралк. корпуса 5-й арміі 3-га Бел. фронту ў ходзе *Мінскай аперацыі 1944*. У М. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, 2 магілы ахвяр фашызму, на якіх пастаўлены помнікі. Працуе *Мядзельскі раённы музей народнай славы*.

*Т. І. Паваліхіна.*



Экспазіцыя, прысвечаная Вялікай Айчыннай вайне, у Мядзельскім музеі народнай славы.

**МЯ́ДЗЕЛЬ** Міхаіл Маркавіч (17.10.1910, в. Задзежжа Верхнядзвінскага р-на — 21.1.1981), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1939. З 1941 на Зах., Бранскім, Цэнтр., 1-м Укр. і Варонежскім франтах. Ст. лейтэнант М. вызначыўся пры вызваленні Украіны. 27.9.1943 з групай салдат пад агнём праціўніка фарсіраваў Дняпро ў Чарнігаўскай вобл., замацаваўся на плацдарме, што памагло пяхоце беспераШкодна пераправіцца цераз раку. Да 1971 на гасп. рабоце.

**МЯ́ДЗЕЛЬСКІ РАЁННЫ МУЗЕ́Й НАРО́ДНАЙ СЛА́ВЫ.** Адкрыты 18.3.1969. У экспазіцыі, прысвечанай Вял. Айч. вайне, 459 экспанатаў, пл. 156 м². Экспануюцца матэрыялы пра пачатковы перыяд вайны, разгортванне падполля і партыз. руху на Мядзельшчыне, стварэнне Вілейскіх падп. абкомаў, Мядзельскіх падп. РК КП(б)Б і ЛКСМБ, *партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава, партызанскага атрада агітацыйнага імя М. Горкага*, пра дзейнасць Літоўскага падп. цэнтра Паўночнага бюро ЦК КП(б)Літвы [лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, сатырычныя плакаты, звароты Вілейскага падп. абкома ЛКСМБ да навучэнцаў Вілейскай і Глыбоцкай семінарый, падп. газеты *«Сялянская газета»*, *«Молодёжная правда»*, фатаграфіі сакратароў Вілейскіх падп. абкомаў КП(б)Б І. Ф. *Клімава* і ЛКСМБ Героя Сав. Саюза П. М. *Машэрава*, фатаграфіі, дакументы, асабістыя рэчы, зброя партызан брыгады імя Варашылава, у т. л. яе камандзіра Героя Сав. Саюза Ф. Р. *Маркава*, камісара А. І. *Шаўчэнкі*, нач. штаба У. У. Саўлевіча, Героя Сав. Саюза А. С. *Азончыка*, сакратара Паўночнага бюро ЦК КП(б)Літвы М. Ю. Шумаўскаса і інш.]. Дакументы расказваюць аб злачынствах ням.-фаш. захопнікаў у раёне. Экспануюцца матэрыялы аб вызваленні Мядзела і раёна воінамі 850-га стралк. палка 277-й стралк. дывізіі пры ўзаемадзеянні з партызанамі брыгады імя Варашылава, фатаграфіі, дакументы, асабістыя рэчы, узнагароды, пісьмы землякоў — удзельнікаў абароны Масквы, Ленінграда, Берлінскай аперацыі 1945, партыз. барацьбы.

*Н. М. Мацюшонак.*

# Н

**«НА РАЗГРО́М ВО́РАГА»**, газета, орган Быценскага падп. РК КП(б)Б. Выдома 19 нумароў за 1.1—27.6.1944 на бел. мове. Пасля вызвалення выдавалася да 1957 пад наз. «Новае жыццё», орган Быценскага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**НАВАГРУ́ДАК**, горад, цэнтр Навагрудскага р-на. За 162 км на У ад Гродна, за 23 км ад чыг. ст. Наваельня на лініі Баранавічы — Ліда, на аўтадарозе Ліда — Слонім. 13,6 тыс. жыхароў у 1939. 4.7.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў Навагрудку і раёне 45 065 чалавек, у т. л. ў створаным тут лагеры смерці 28 тыс. чал., разбурылі каля 60 % жыллёвага фонду, усе прамысловыя прадпрыемствы. У Н. і раёне дзейнічалі Навагрудскія падп. райкомы КП(б)Б (13.6.1943—6.7.1944) і ЛКСМБ (вер. 1942—6.7.1944), *Навагрудскі падпольны міжрайком ЛКСМБ*, партыз. брыгады імя Кірава, 1-я Баранавіцкая, імя Чапаева, Першамайская, асобная партыз. атрады «Громава», 106-ы (гл. адпаведныя артыкулы); выдавалася падп. газ. *«Звезда»*. Вызвалены 8.7.1944 воінамі 23-й танк. брыгады (падпалк. К. І. Бойка), 1434-га самаходнага арт. палка (маёр

М. Я. Самуілкін), 5-й знішчальна-процітанк. арт. брыгады (палк. Дз. К. Ушакоў) армейскага рухомага атрада 50-й арміі, 283-й стралк. дывізіі (палк. В. А. Канавалаў) 41-га стралк. корпуса 3-й арміі 2-га Бел. фронту ў ходзе *Беластоцкай аперацыі 1944*. У Н. могілкі сав. воінаў і партызан, на якіх пастаўлены помнікі; магіла Невядомага салдата, на ёй помнік, запалены Вечны агонь; помнік парт. і дзярж. дзеячу БССР б. сакратару Навагрудскага падп. РК ЛКСМБ Р. Ф. Фамічову; мемар. дошка супрацоўнікам міліцыі, загінуўшым у 1941—45. *У. М. Якубоўскі.*

**НАВАГРУ́ДСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ МІЖРАЙКО́М ЛКСМБ,** Навагрудскі падпольны кустаявы камітэт камсамола. Створаны па ініцыятыве парт. арг-цыі і камісара партыз. брыгады імя Сталіна А. Г. Мурашова. Дзейнічаў з сак. 1943 да 28.2. 1944 пад кіраўніцтвам *Баранавіцкага падпольнага абкома ЛКСМБ*, *Лідскага падпольнага міжрайпартцэнтра* (з крас. 1943), *Лідскага падпольнага міжрайцэнтра ЛКСМБ* (май — снеж. 1943). Кіраваў камсам.-маладзёжнымі тэрытарыяльнымі падп. арг-цыямі ў населеных пунктах Іўеўскага, Любчанскага, Навагрудскага, Юрацішкаўскага і часткова Лідскага р-наў, а таксама дзейнасцю Іўеўскага (да канца 1943), Любчанскага (да кастр. 1943), Навагрудскага (да ліп. 1943) і Юрацішкаўскага (да ліст. 1943) падп. райкомаў камсамола. Сакратар міжрайкома Л. К. Хітро, члены А. К. Побаль (нам. сакратара), А. М. Бараненкава. Базіраваўся ў паўн.-зах. частцы Баранавіцкай вобл.

Пасля ліквідацыі міжрайкома ЛКСМБ усе тэрытарыяльныя падп. камсам.-маладзёжныя арг-цыі сталі падпарадкоўвацца падпольным РК ЛКСМБ, а райкомы — Баранавіцкаму падп. абкому ЛКСМБ. *Р. М. Шавяла.*

**НАВАПО́ЛАЦКІ ГАРАДСКІ́ МУЗЕ́Й.** Адкрыты 10.10.1973. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, мае 186 экспанатаў, пл. 35 м². Расказваецца аб стварэнні падполля і партыз. руху ў краі (узоры самаробнай партыз. зброі, у т. л. аўтаматы, вінтоўкі, гранаты, ракетніцы і інш., фатаграфіі партызан брыгад «Няўлоўныя», 3-й Бел., імя Варашылава, партыз. атрада «Смерць фашызму», у т. л. іх камандзіраў Героя Сав. Саюза М. С. *Прудніка*ва, А. Р. *Марозава*, А. Я. *Марчанкі*, Дз. В. *Цябута*, П. М. Кісялёва, матэрыялы аб сав. патрыётцы М. С. Выдра, расстралянай гітлераўцамі, і інш.). Матэрыялы аб вызваленні Полаччыны ад ням.-фаш. захопнікаў (карта-схема *Беларускай аперацыі 1944*, узоры зброі, амуніцыі, абмундзіравання сав. воінаў, рэшткі самалёта Іл-2, збітага гітлераўцамі ў час бою, фатаграфіі военачальнікаў, Герояў Сав. Саюза М. М. Вінаградава, Ф. С. Вазнясенскага, І. М. Жагранкова, У. С. Рублеўскага, якія загінулі пры вызваленні краю, Героя Сав. Саюза, ураджэнца раёна В. І. *Яронькі* і лістоўка з апісаннем яго подзвігу, спісы воінаў, што загінулі пры вызваленні вёсак Троіцкае, Слабада, Замохава, на тэр. якіх узнік г. Наваполацк, і інш.). *М. В. Шкатаў.*

**НАВАСЁЛКАЎСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з жн. 1941 да кастр. 1942 у в. Вял. Навасёлкі Дзяржынскага р-на, састаўная частка *Дзяржынскага партыйна-камсамольскага падполля*. Уваходзілі М. Л. Лімантаў (кіраўнік), С. А. Бурко, Л. І. Ермаловіч, Н. І. Ждановіч, М. П. Ждановіч, З. І. Красоўская, Н. Н. Мамнёва, Н. М. Чаранок і інш., усяго 17 чал., у т. л. 4 камуністы і 8 камсамольцаў.

Падпольшчыкі мелі канспіратыўную кватэру, падтрымлівалі сувязь з *Мінскім партыйным падполлем*, 125-м партыз. атрадам імя Сталіна. Перапісвалі і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі, вялі разведку, збор зброі, прадуктаў харчавання і медыкаментаў для параненых чырвонаармейцаў і партызан. Летам 1942 знішчылі мост на ўчастку Навасёлкі — Гаруцішкі.

У барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў загінулі І. М. Гаркун, З. І. Красоўская, А. І. Папоў, А. С. Шаўцова, Н. М. Чаранок. *А. І. Валахановіч.*

**НАВАТУ́ХІНСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала ў чэрв. 1941— снеж. 1942 у в. Новая Тухінь Дубровенскага р-на. Аб'ядноўвала 14 чал., у т. л. 3 камуністаў і 5 камсамольцаў. Кіраўнік камуніст В. Р. Свойнікаў (Свайняк). Падпольшчыкі падтрымлівалі сувязь з адным з кіраўнікоў *Аршанскага партыйна-камсамольскага падполля* Л. Н. Анкіновічам, праз аршанскага падпольшчыка А. І. Палітава — з упаўнаважаным ЦК КП(б)Б І. С. Шурманам.

Яшчэ да акупацыі раёна камуністы і камсамольцы, актывісты вёскі прымалі ўдзел у барацьбе супраць варожых дыверсантаў, аднаўлялі разбуранае чыг. палатно. Па заданню кіраўніцтва групы падпольшчыкі Г. Е. Кузьмянкоў стаў бургамістрам воласці, І. М. Саўкін — пісарам. Яны перадавалі на явачныя кватэры, якія трымалі Е. В. Свойнікава і А. Т. Васілёнак, бланкі дакументаў, звесткі аб намерах акупацыйных улад. Сувязь з Аршанскім падполлем падтрымлівалі Е. В. Свойнікава, Дз. Я. Тарасенка, з партызанамі — С. М. Свойнікава, В. В. Свойнікава, П. П. Бялясаў і інш.

Падпольшчыкі распаўсюджвалі сав. лістоўкі і газеты, збіралі зброю, боепрыпасы, дапамагалі чырвонаармейцам, якія выходзілі з акружэння, забяспечвалі іх адзеннем, дакументамі. Паведамлялі партызанам звесткі аб варожых абозах з харчамі, нарабаванымі ў насельніцтва. Пусцілі пад адхон воінскі эшалон, які ішоў з Оршы ў Смаленск.

У снеж. 1942 фашысты арыштавалі патрыётаў. Пасля зверскіх катаванняў у Оршы пакараны смерцю П. П. Бялясаў, А. Т. Васілёнак, Б. А. Васілёнак, А. П. Доўбыш, Г. Е. Кузьмянкоў, І. М. Саўкін, В. Р. Свойнікаў, Е. В. Свойнікава, С. М. Свойнікава, Дз. Я. Тарасенка, Ф. М. Шабураў, П. Ц. Шыцікаў. У в. Новая Тухінь на будынку Дома культуры ў гонар падпольшчыкаў у 1982 устаноўлена мемар. дошка. *М. Ф. Шумейка.*

М. М. Мядзель. Я. Г. Навіцкі.



**НАВІ́ЦКІ** Яўген Гаўрылавіч (н. 15.8. 1912, в. Копцевічы Чашніцкага р-на), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1939. Скончыў Нікалаеўскую школу марскіх лётчыкаў (1933). На фронце з 1941, удзельнік баёў пад Ленінградам, у Прыбалтыцы, Усх. Прусіі, Усх. Памераніі: лётчык, камандзір звяна, нач. парашутна-дэсантнай службы штурмавога авіяпалка Балтыйскага флоту. Затапіў і пашкодзіў карабель водазмяшчэннем 5 тыс. т, 4 транспарты, кананерскую лодку, 6 катэраў, знішчыў 32 танкі, 31 гармату. Да 1946 у Сав. Арміі, капітан. Да 1973 працаваў у трэсце лясной авіяцыі, у ін-це Дзіпралестранс.

**НАВУ́МЧЫК** Мікалай Кузьміч (н. 15.7. 1916, Мінск), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1941. Скончыў аэраклуб у Барысаве (1937), школу лётчыкаў-знішчальнікаў (1938), Ваен.-паветр. акадэмію (1946). З вер. 1941 на Паўд., Паўн.-Каўказскім, Закаўказскім франтах, удзельнік баёў на Украіне, Паўн. Каўказе. Камандзір эскадрыллі знішчальнага авіяпалка капітан Н. да снеж. 1943 зрабіў 319 баявых вылетаў, правёў 54 паветр. баі, асабіста збіў 13, у складзе групы — 9 самалётаў праціўніка. Да 1957 у Сав. Арміі, палкоўнік. Да 1976 на адм. рабоце.

**НАГА́НАЎ** Аляксей Фёдаравіч (15.2. 1915, с. Красная Рака Старамайнскага р-на Ульянаўскай вобл.— 1941), удзельнік *Брэсцкай крэпасці абароны 1941*. Чл. ВЛКСМ. З 1937 у Чырв. Арміі. З 22.6.1941 лейтэнант Н. на чале ўзвода абараняў Цярэспальскія вароты Брэсцкай крэпасці. Загінуў у

час абароны. Яго імем названы вуліцы ў Брэсце і Жабінцы. У Брэсце яму пастаўлены помнік.

**НАГО́РНЫ** Мікалай Нічыпаравіч (18.12.1901, в. Асташына Навагрудскага р-на — 11.6.1985), ген.-палкоўнік (1944). Чл. КПСС з 1927. У Чырв. Арміі з 1920, да 1930 у БВА. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1933). Удзельнік нац.-рэв. вайны ў Іспаніі 1936—39. У Айч. вайну нач. штаба войск ППА краіны, Зах. фронту, нач. Цэнтр. штаба ППА, нам. камандуючага артылерыяй Чырв. Арміі па войсках ППА, адначасова нач. Цэнтр. штаба ППА Чырв. Арміі, з сак. 1945 нач. Гал. штаба войск ППА. У 1946—55 на камандных пасадах у войсках ППА.

М. К. Навумчык. М. Н. Нагорны.



**НАГО́РНЫ** Рыгор Фёдаравіч (5.12. 1925, в. Пранчакі Ляхавіцкага р-на — 3.11.1963), поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПСС з 1951. На фронце з 1944. Кулямётчык радавы Н. вызначыўся: 26.2.1945 у баі за важны апорны пункт заглушыў 2 кулямётныя кропкі праціўніка, 5.3.1945 у вулічных баях у г. Старгард-Шчэцінскі адбіў варожую контратаку і знішчыў каля 20 гітлераўцаў. Пасля вайны працаваў у Баранавічах.

**НАДЗВЫЧА́ЙНАЯ ДЗЯРЖА́ЎНАЯ КАМІ́СІЯ** (НДзК) па выяўленню і расследаванню злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў і іх саўдзельнікаў і прычыненых імі страт грамадзянам, калгасам, грамадскім арганізацыям, дзяржаўным прадпрыемствам і ўстановам СССР. Створана паводле Указа Прэзідыума ВС СССР ад 2.11.1942 з ліку дзярж. і грамадскіх дзеячаў, прадстаўнікоў навукі і культуры. Старшыня М. М. Шверрнік. У рэспубліках, краях, абласцях, гарадах і раёнах ствараліся камісіі садзеяння НДзК. Бел. рэсп. камісію, створаную ў пач. 1944, узначальваў 1-ы сакратар ЦК КП(б)Б, старшыня СНК БССР П. К. Панамарэнка. Дзейнічалі Бабруйская, Баранавіцкая, Брэсцкая, Віцебская, Гомельская, Гродзенская, Магілёўская, Маладзечанская, Мінская, Палеская, Пінская, Полацкая абласныя камісіі садзеяння, збіралі дакументальныя даныя, у т. л. паказанні сведкаў, акты аб злачынствах і прычыненых стратах. Паводле звестак камісіі страты СССР склалі 679 млрд. руб. (у цэнах 1941). НДзК устанавіла, што на Беларусі ням.-фаш. захопнікі і іх саўдзельнікі знішчылі больш як 2,2 млн. сав. грамадзян, разбурылі і спалілі 209 гарадоў і гар. пасёлкаў, 9200 вёсак, разбурылі і вывезлі ў Германію больш за 10 тыс. прамысловых прадпрыемстваў, прычынілі матэрыяльныя страты на суму 75 млрд. руб. (у цэнах 1941). Акты, паведамленні і інш. матэрыялы НДзК шырока выкарыстоўваліся на *Нюрнбергскім працэсе*, на працэсах у Мінску, Гомелі, Бабруйску і інш., і былі прызнаны бясспрэчнымі доказамі па справах ням. васн. злачынцаў.

**НАДТАЧЭ́ЕЎ** Георгій Мяфодзьевіч (ліст. 1916, в. Красніца Быхаўскага р-на — 25.4.1944), Герой Сав. Саюза (1944). Скончыў Магілёўскі аэраклуб (1940). На фронце з чэрв. 1941. Лётчык-штурмавік, мал. лейтэнант Н. зрабіў каля 100 баявых вылетаў. 31.1. 1944 у час налёту на варожы аэрадром самалёт камандзіра быў падбіты і зрабіў вымушаную пасадку. Н. гарматна-кулямётным агнём разагнаў гітлераўцаў, пасадзіў сваю машыну, узяў экіпаж падбітага самалёта і вярнуўся на свой аэрадром. Загінуў пры вызваленні Севастопаля. Яго імем названы вуліцы ў Быхаве, Магілёве; у в. Красніца Быхаўскага р-на пастаўлены абеліск.

**НА́ЛЕПКА** (Nalepka) Ян (псеўд. Р э п к і н; 20.9.1912, Сміжані, Усх. Славакія — 16.11.1943), арганізатар і кіраўнік славацкага партыз. атрада, які дзейнічаў на тэр. Украіны і Беларусі. Герой Сав. Саюза (1945). Герой Славацкага нац. паўстання (1945). Чл. КПСС з 1943. Скончыў афіцэрскую школу (1936). З 1941 у складзе войск марыянетачнага ўрада Славакіі на акупіраванай тэр. Беларусі і Украіны, нач. штаба 101-га славацкага палка. Стварыў у палку антыфаш. патрыятычную групу, якая ў 1942 наладзіла сувязь з партызанамі Мінскай і Палескай абл. У пач. 1943 перайшоў з групай славакаў-антыфашыстаў да партызан. У партыз. злучэнні А. М. Сабурава быў камандзірам атрада, які дзейнічаў у раёне Оўруч — Ельск — Мазыр — Алеўск. Загінуў у баі. У Ельску і г. п. Лельчыцы яго імем названы вуліцы; у Ельску на доме, дзе ён жыў у 1942—43, устаноўлена мемар. дошка.

**«НАЛІБО́КІ»** («Naliboki»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партызан і мясцовага насельніцтва ў Івянецкім р-не (за 12 км на З ад в. Налібакі, у Налібоцкай пушчы) 24—27.7.1942. Праводзілася 3 карнымі батальёнамі. Гітлераўцам не ўдалося пранікнуць у размяшчэнне партыз. фарміраванняў, і яны выклікалі на дапамогу бамбардзіровачную авіяцыю. 27 ліп. 15 варожых самалётаў «нанеслі бомбавы ўдар па разведаных цэлях». Знішчыць партызан і разбурыць іх базы карнікам не ўдалося. У раёне аперацыі гітлераўцы забілі і паранілі каля 200 мясцовых жыхароў.

**НАЛІБО́ЦКІЯ БАІ́ 1942, 1943,** баі паміж *партызанскай брыгадай імя І. В. Сталіна* і ням.-фаш. захопнікамі ў в. Налібакі Івянецкага р-на 9.6.1942 і 8.5. 1943.

9.6.1942 партыз. атрад 125-ы (камандзір С. А. Рыжак) пасля разгрому паліцэйскага ўчастка ў в. Налібакі ўступіў у бой з карнікамі, якія вярталіся з в. Рубяжэвічы. У выніку 2-гадзіннага бою ў в. Налібакі партызаны знішчылі і ўзялі ў палон 25 гітлераўцаў, спалілі валасную ўправу, магазін, паліцэйскія сталовую і пякарню, 3 грузавыя аўтамашыны, захапілі 3 ручныя кулямёты, 30 вінтовак, 13 пісталетаў, 3 аўтаматы, шмат патронаў, грузавую і легкавую аўтамашыны. У ноч на 8.5.1943 ням.-фаш. гарнізон у в. Налібакі быў разгромлены партыз. атрадамі імя Дзяржынскага, імя Суворава і «Бальшавік» партыз. брыгады імя Сталіна. Агульнае кіраўніцтва аперацыяй па разгрому гарнізона ажыццяўлялі камандзір брыгады П. І. *Гулевіч*, камісар А. Г. *Мурашоў* і прадстаўнік *Івянецкага падпольнага міжрайпартцэнтра* Р. Л. Васілевіч.

Паводле плана, які быў распрацаваны кіраўніцтвам партыз. брыгады, атрад «Бальшавік» наступаў на гарнізон з ПнУ, атрад імя Дзяржынскага — з ПдУ, астатнія партызаны зрабілі засады на шляхах магчымага адыходу праціўніка: на ПдУ ад в. Тарасава і на ПдЗ ад в. Налібакі.

Пасля арт.-мінамётнага абстрэлу партызаны атакавалі гарнізон (каля 250 гітлераўцаў). У выніку 2-гадзіннага бою была знішчана значная колькасць жывой сілы праціўніка, захоплены 4 станковыя і 13 ручных кулямётаў, 3 мінамёты, 10 аўтаматаў, 93 вінтоўкі і больш за 20 тыс. патронаў. Партызаны спалілі электрастанцыю, лесазавод, казарму і ўсе ўстановы акупантаў. Страты партызан: 6 забітых і 6 параненых. Гл. таксама *Івянецка-Налібоцкая партызанская зона.* *М. Ф. Шумейка.*

**НАРАЎЛЯ́НСКА-ШЧАКАТО́ЎСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1943,** баі паміж партыз. атрадамі імя Кірава (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 27-я Нараўлянская імя С. М. Кірава)*, Мазырскім (пазней *партызанская брыгада Мазырская імя Аляксандра Неўскага*), украінскім партыз. злучэннем А. М. Сабурава, асобным партыз. атрадам імя В. Н. Бажэнкі і ням.-фаш. захопнікамі ў г. п. Нароўля і вёсках Шча-

катова і Слабада Мазырскага р-на 29—30.8.1943.

Паводле даных партыз. разведкі Нараўлянскі гарнізон налічваў каля 130 гітлераўцаў, якія былі ўзброены 4 станковымі і 6 ручнымі кулямётамі, 3 мінамётамі, 15 аўтаматамі, вінтоўкамі, быў умацаваны бліндажамі і дзотамі. У ноч на 30.8. 1943 партызаны атрадаў імя Кірава (камандзір У. П. Яромаў) і імя Бажэнкі (М. А. Рудзіч), якія падзяліліся на некалькі груп, зрабілі налёт на Нароўлю.

Баявы заслон перакрыў дарогу Нароўля — Барбараў. Штурмавыя групы захапілі мост цераз р. Нараўлянка, акружылі казармы гарнізона, інш. падраздзяленні прасунуліся да цэнтра пасёлка. Да раніцы гарнізон быў знішчаны, партызаны захапілі трафеі і без страт пакінулі Нароўлю. Праціўнік страціў 12 чал. забітымі і паранены́мі, фактычна не прыняў бою. У гэту ж ноч Мазырскі партыз. атрад (А. Л. Жыльскі) ва ўзаемадзеянні з партызанамі злучэння Сабурава атакавалі фаш. гарнізоны ў в. Шчакатова і Слабада. Група аўтаматчыкаў злучэння Сабурава перарэзала тэлефонную сувязь з в. Козенкі, дзе знаходзіліся значныя сілы праціўніка, і зрабілі засаду на дарозе Шчакатова — Козенкі. Байцы Мазырскага атрада ўзялі пад кантроль дарогі з Шчакатова ў вёскі Рудня і Слабада, а штурмавыя групы акружылі будынак, дзе размяшчаліся салдаты праціўніка. У 4 гадз раніцы 30.8.1943 партызаны абрушылі на ворага агонь гармат і кулямётаў і ў кароткім баі разграмілі гітлераўцаў, што знаходзіліся ў вёсцы, потым перанеслі арт. агонь на гарнізон у в. Слабада. Націск атакуючых паралізаваў спробы фашыстаў прыйсці на дапамогу сваім у в. Шчакатова і вымусіў іх пакінуць в. Слабада. Падмацаванне гітлераўцаў, якое рушыла з в. Козенкі, партыз. засада расстраляла. У выніку бою, які працягваўся 1 гадз, патрыёты вывелі са строю больш за 100 гітлераўцаў, знішчылі 3 аўтамашыны, захапілі 4 кулямёты, больш за 90 вінтовак, 120 коней, 3 т збожжа і інш. трафеі. Страты партызан: 1 забіты і 1 паранены. Гарнізоны ў вёсках Слабада і Шчакатова праціўнікам болей не ствараліся.

*У. С. Пасэ.*

**НАРАЎЛЯ́НСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1943,** бой сав. войск і *партызанскай брыгады 27-й Нараўлянскай імя С. М. Кірава* супраць ням.-фаш. захопнікаў 20—30 ліст. за вызваленне г. п. Нароўля. У пасёлку знаходзілася 500 гітлераўскіх салдат і афіцэраў, яны мелі на ўзбраенні 13 танкаў, 2 штурмавыя гарматы «фердынанд» і 2 бронемашыны. 28 ліст. сав. 415-я стралк. дывізія фарсіравала р. Прыпяць і з Пд наблізілася да Нароўлі. Партызаны разведалі ўмацаванні праціўніка, камандаванне дывізіі разам з імі распрацавала план удару. Стралк. полк і 200 партызан з камісарам брыгады П. І. Літоўскім зрабілі абходны манеўр. У ноч на 30 ліст. асн. сілы дывізіі з Пд, стралк. полк і 40 партызан з З, узвод салдат і 160 партызан з Пн пачалі наступленне. Баючыся акружэння, праціўнік адступіў, пакінуўшы ў Нароўлі ваен. склады. Партызаны і часці Чырвонай Арміі вызвалілі в. Верхні і Ніжні Млынок, разам з насельніцтвам пабудавалі мост цераз Прыпяць.

*Я. К. Габец.*

**НАРЖЫ́МСКІ** Уладзімір Аляксандравіч (н. 14.2.1915, в. Цімкавічы Капыльскага р-на), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1941. Канд. ваен. навук (1967), дацэнт (1969). Скончыў Ульянаўскую лётна-тэхн. школу (1935), Ейскае ваенна-марское авіяц. вучылішча (1941), Ваен.-паветр. акадэмію (1951). У Чырв. Арміі з 1936. На фронце з 1941 у ВПС Чарнаморскага флоту, удзельнік абароны Крыма, Каўказа, вызвалення Румыніі, Балгарыі, Аўстрыі, баёў супраць імперыялістычнай Японіі. Нам. камандзіра эскадрыллі знішчальнага авіяпалка капітан Н. зрабіў 404 баявыя вылеты, правёў 35 паветр. баёў, збіў 18 самалётаў праціўніка, з іх 5 у групе. Пасля вайны ў авіячасцях ВМФ. З 1958 выкладчык Ваен.-паветр. акадэміі, нам. нач. Цэнтр. аэраклуба СССР, выкладчык Ваен.-паліт. акадэміі імя Леніна. З 1970 заг. ваеннай кафедры Вышэйшай камсам. школы пры ЦК ВЛКСМ, палкоўнік.

**НА́РКАЎШЧЫНА**, вёска на тэр. Полацкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася ў Юравіцкім сельсавеце. Перад вайной у ёй жыў 31 чал. Летам 1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 22 жыхароў, вёску (9 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**«НАРМА́НДЫЯ — НЁМАН»,** назва французскага знішчальнага авіяпалка, які дзейнічаў супраць фаш. Германіі на сав.-германскім фронце ў 1943—45. У ліст. 1942 французскія добраахвотнікі (14 лётчыкаў і 58 авіямеханікаў) прыбылі ў СССР. Па жаданню асабовага складу эскадрыллі было прысвоена найменне «Нармандыя». У яе склад было ўключана 17 сав. авіятэхнікаў. У сак. 1943 эскадрылля накіравана на Зах. фронт, а ў ліп. 1943 разгорнута ў 1-ы знішчальны авіяполк «Нармандыя», укамплектаваны французскімі лётчыкамі і сав. тэхн. складам, самалётамі сав. вытворчасці. 25.5.1944 полк накіраваны на 3-і Бел. фронт, летам 1944 удзельнічаў у Бел. аперацыі. Толькі 26.6.1944 лётчыкі зрабілі 72 баявыя вылеты, знішчылі 8 варожых самалётаў. За баявыя заслугі і мужнасць у час баёў пры фарсіраванні Нёмана палку 28.11.1944 прысвоена найменне «Нёманскі» і назва

Р. Ф. Нагорны. Г. М. Надтачэеў.





Ян На́лепка (злева) з групай славацкіх салдат і афіцэраў, якія перайшлі на бок савецкіх партызан.

«Нармандыя—Нёман». За час баявых дзеянняў на сав.-германскім фронце лётчыкі палка зрабілі больш за 5 тыс. баявых вылетаў, правялі 869 паветр. баёў, збілі 273 і пашкодзілі 80 варожых самалётаў.

19.2 і 5.6.1945 за ўзорнае выкананне заданняў полк узнагароджаны ордэнамі Чырв. Сцяга і Аляксандра Неўскага.

У. А. Наржымскі. Дз. С. Наруцкі.



Французскі ўрад адзначыў баявыя подзвігі палка «Н.— Н.» 4 узнагародамі. Многія французскія лётчыкі палка ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі СССР, а ст. лейтэнанты М. *Альбер*, Р. дэ ла *Пуап*, М. *Лефеўр* (пасмяротна), мал. лейт. Ж. *Андрэ* ўдастоены звання Героя Сав. Саюза. Пасля перамогі над фаш. Германіяй французскія добраахвотнікі 20.6. 1945 на 41 баявым самалёце Як-3, якія перададзены Сав. урадам у дар Францыі, вярнуліся на радзіму.

У 1956 на будынку былой французскай місіі ў Маскве ўстаноўлена мемар. дошка з імёнамі 42 французскіх лётчыкаў палка «Н.— Н.», якія змагаліся поплеч з воінамі Сав. Арміі і загінулі ў час 2-й сусв. вайны. У 1964 на Увядзенскіх могілках у Маскве на магіле франц. лётчыка, астанкі якога знойдзены ў Арлоўскай вобл., устаноўлены помнік Невядомаму лётчыку палка «Н.— Н.». У гонар палка названа вуліца ў Барысаве. У Францыі дзейнічае Асацыяцыя лётчыкаў-ветэранаў, у СССР — Савет тэхнікаў-ветэранаў палка «Н.— Н.». У ВПС Францыі існуе авіячасць, якая носіць назву «Н.— Н.».

*В. С. Семянкоў.*

**НАРО́ДНАЕ АПАЛЧЭ́ННЕ,** добраахвотніцкія ваен. і ваенізаваныя фарміраванні, якія ствараліся для дапамогі дзеючай Чырв. Арміі з сав. грамадзян, не падлеглых першачарговаму прызыву па мабілізацыі; адна з форм масавага патрыятычнага руху сав. народа, яго непасрэднага ўдзелу ў вайне супраць ням.-фаш. захопнікаў. Ініцыятарамі стварэння Н. а. выступілі парт. арг-цыі і працоўныя Ленінграда 27.6.1941. 30 чэрв. пачалося фарміраванне ленінградскага апалчэння. ЦК ВКП(б) ухваліў ініцыятыву ленінградцаў і рэкамендаваў распаўсюдзіць іх вопыт на інш. гарады. Старшыня Дзярж. к-та абароны І. В. Сталін у прамове па радыё 3.7.1941 прызваў да стварэння Н. а. ў кожным горадзе, якому пагражала нашэсце ворага. Атрады Н. а. на Беларусі пачалі арганізоўвацца паводле дырэктывы СНК БССР і ЦК КП(б)Б ад 6.7.1941. Работу па іх фарміраванню вялі абкомы, гаркомы, райкомы партыі, мясцовыя сав. і камсам. органы. Н. а. будавалася па прынцыпу армейскіх падраздзяленняў, яго ўзначальвалі абл., гар. і раённыя штабы. На камандныя пасады, як правіла, назначаліся асобы з кадравага саставу Чырв. Арміі або прызваныя з запасу, часам служачыя НКУС. Н. а. складалася з рабочых, служачых, сялян. Ядром яго з'яўляўся рабочы клас. Мела значную парт.-камсам. праслойку. Атрады Н. а. ўдзельнічалі ў стварэнні абарончых рубяжоў, знішчэнні жывой сілы і тэхнікі ворага, абясшкоджванні дыверсійных груп праціўніка і інш. (гл. *Віцебскае народнае апалчэнне 1941, Гомельскі полк народнага апалчэння, Магілёўскае народнае апалчэнне 1941*). Усяго ў Віцебскай, Гомельскай, Магілёўскай і Палескай абл. было арганізавана больш за 200 фарміраванняў Н. а. (больш як 33 тыс. чал.). Часам у атрады Н. а. рэарганізоўваліся *знішчальныя батальёны.* Частка байцоў у Н. а. ўлілася ў дзеючую армію, астатнія пасля акупацыі ворагам тэр. рэспублікі перайшлі да партыз. метадаў барацьбы.

*А. Ф. Хацкевіч, Р. Р. Кручок.*

**«НАРО́ДНЫ МСЦІ́ВЕЦ»,** газета, заснавана ў 1939 пад наз. «Чырвоны Кастрычнік». У час ням.-фаш. акупацыі орган Акцябрскага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 33 нумары за 21.3.1943—31.3.1944 на бел. мове. Рэдактар П. М. Камоцкі. Пасля вызвалення выдаецца пад першапачатковай назвай, орган Акцябрскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«НАРО́ДНЫ МСЦІ́ВЕЦ»,** газета, заснавана ў 1919 пад наз. «Молот и плуг». У час ням.-фаш. акупацыі орган Слуцкага падп. РК КП(б)Б. Вядома 57 нумароў за 1.4.1943—25.6.1944 на бел. мове. Рэдактар М. Е. Дастанка. Пасля вызвалення выдавалася пад назвай «За сацыялістычную Радзіму», з 1962 «Шлях Ільіча», орган Слуцкага гаркома КПБ, раённага і гар. Саветаў нар. дэпутатаў.

**«НАРО́ДНЫЕ МСТИ́ТЕЛИ»,** газета, заснавана ў 1932 пад наз. «Чырвоны калектывіст». У час ням.-фаш. акупацыі орган Бялыніцкага падп. РК КП(б)Б. Вядома 13 нумароў за 25.3—20.12. 1943 на рус. мове. Рэдактары С. М. Левянец, З. І. Чэркас. Пасля вызвалення выдавалася пад назвай «Перамога», з 1962 «Зара камунізму», орган Бялыніцкага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«НАРО́ДНЫЙ МСТИ́ТЕЛЬ»,** газета, якая выдавалася *партызанскай брыгадай «Стары»* (1942) і міжраённым парт. цэнтрам Барысаўска-Бягомльскай зоны (1943) (гл. *Барысаўскі падпольны міжрайпартцэнтр*). Вядома 5 нумароў за 7.11—27.12.1942 і 19 нумароў за 16.1—24.5.1943 на рус. мове. Рэдактар В. Бачароў.

**«НАРО́ДНЫЙ МСТИ́ТЕЛЬ»,** газета, орган Дзісненскага падп. РК КП(б)Б. Вядома 7 нумароў за 23.2—29.5.1944 на рус. мове. Рэдактар А. С. Іваноў. Нумар ад 23.2.1944 выйшаў пад наз. «Кліч партызана». Пасля вызвалення выдавалася пад наз. «За Родину», у 1945—59 «Новае жыццё», орган Дзісненскага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**«НАРО́ДНЫЙ МСТИ́ТЕЛЬ»,** газета, орган Івянецкага падп. РК КП(б)Б. Вядома 56 нумароў за 16.6.1943—29.6.1944 на рус. (№ 1—12 за 1943 на бел. і рус.) мове. Рэдактары: Г. В. *Будай* (да лют. 1944), А. А. Казей (да 1.4.1944, загінуў), У. К. Курыленка (з крас. 1944). Пасля вызвалення выдавалася да 1962 пад наз. «Ивенецкая правда», орган Івянецкага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**«НАРО́ДНЫЙ МСТИ́ТЕЛЬ»,** газета, орган Казлоўшчынскага падп. РК КП(б)Б. Вядома 5 нумароў за 1—24.5.1944 на рус. мове. Пасля вызвалення выдавалася да 1960 пад наз. «Сцяг перамогі», орган Казлоўшчынскага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**«НАРО́ДНЫЙ МСТИ́ТЕЛЬ»,** газета, орган Куранецкага падп. РК КП(б)Б. Вядома 11 нумароў за ліст. 1943— май 1944 на рус. мове. Рэдактар П. М. Баронкін. Пасля вызвалення выдавалася пад назвай «За Савецкую Радзіму», з 1962 «Шлях перамогі», орган Вілейскага РК КПБ, раённага і гар. Саветаў нар. дэпутатаў.

**«НАРО́ДНЫЙ МСТИ́ТЕЛЬ»,** штотыднёвая газета, орган парт. арг-цыі *партызанскага палка Смаленскага* (Ушацкі р-н). Вядома 28 нумароў за 8.8.1943—1.5.1944 на рус. мове.

**«НАРО́ДНЫЙ МСТИ́ТЕЛЬ»,** газета, орган Шаркоўшчынскага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 4 нумары за крас.—чэрв. 1944 на рус. мове. Рэдактар К. І. Капцюгоў. Пасля вызвалення выдавалася да 1950 пад наз. «Сялянская праўда», да 1962 «Калгасны шлях», з 1967 «Кліч Радзімы», орган Шаркоўшчынскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**НАРО́ЎЛЯ,** горад, цэнтр Нараўлянскага р-на, прыстань на р. Прыпяць. За 178 км на ПдЗ ад Гомеля, за 34 км ад чыг. ст. Ельск на лініі Калінкавічы — Оўруч, аўтадарогамі звязана з Мазыром, Ельскам і Аляксандраўкай. З 1924 цэнтр раёна. У 1938—71 гар. пасёлак, 4,7 тыс. жыхароў у 1941. 27.8.1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў Н.

і раёне 600 чал. На тэр. раёна дзейнічалі Нараўлянскія падп. райкомы КП(б)Б (8.10—28.11.1943) і ЛКСМБ (люты —25.12.1943), *партызанскі атрад Нараўлянскі, партызанская брыгада 27-я Нараўлянская імя С. М. Кірава.* У ноч на 30.8.1943 партызаны зрабілі налёт на ням.-фаш. гарнізон у Н. (гл. *Нараўлянска-Шчакатоўская аперацыя 1943*). Вызвалена 30.11.1943 воінамі 415-й стралк. дывізіі (палк. П. І. Машчалкаў) 61-й арміі Бел. фронту ў выніку *Нараўлянскай аперацыі 1943* сумесна з партызанамі 27-й Нараўлянскай брыгады імя Кірава. У Н. брацкія магілы сав. воінаў, партызан і мясцовых жыхароў, якія загінулі ў барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі, на магілах пастаўлены помнікі.
*Н. У. Капранава.*

**НАРУ́ЦКІ** Дзіянісій Сільвестравіч (18.10.1904, в. Пагост Салігорскага р-на —4.10.1960), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1928. У Чырв. Арміі з 1926. Скончыў Арлоўскую бранятанк. школу (1932). Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну на фронце з 1941. Камандзір самаходнага арт. палка палк. Н. вызначыўся пры вызваленні Польшчы. 14.1.1945 полк прарваў абарону ворага і да 17.1.1945 прайшоў з баямі 80 км, знішчыў 2 танкі, 31 гармату, 114 мінамётаў і кулямётаў, 6 аўтамашын, каля 400 гітлераўцаў. Яго імем названы вуліцы ў Салігорску і ў пас. Мірны Салігорскага р-на.

**НАРЧУ́К** Сямён Мікалаевіч (17.3.1910, в. Вялікія Козкі Талачынскага р-на — 28.5.1944), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1932. З 1928 на сав. і камсам. рабоце, сакратар Талачынскага РК КП(б)Б. У партызанах з чэрв. 1942: камісар атрада, з жн. 1942 камісар, з чэрв. 1943 камандзір *партызанскай брыгады «Навальніца»*, адначасова ў ліп. 1943— маі 1944 сакратар Талачынскага падп. РК КП(б)Б. Яго імем названа вуліца ў г. Талачын, у в. Янава Талачынскага р-на ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**НАСЕ́ЛЕНЫЯ ПУ́НКТЫ БЕЛАРУ́СІ, ЗНІ́ШЧАНЫЯ РАЗАМ З ЖЫХАРА́МІ Ў 1941—44 НЯМЕ́ЦКА-ФАШЫ́СЦКІМІ ЗАХО́ПНІКАМІ.** Ажыццяўляючы загадзя распрацаваны дзярж. органамі фаш. Германіі план па знішчэнню сав. людзей (гл. *Акупацыйны рэжым,* план *«Ост»*), ням.-фаш. захопнікі планамерна праводзілі карныя аперацыі супраць мірнага насельніцтва і масава знішчалі яго разам з вёскамі, рабавалі маёмасць, ператваралі цэлыя раёны ў пустыні (Асвейскі, Лельчыцкі). За 3 гады акупацыі яны спалілі і разбурылі на Беларусі 209 гарадоў і раённых цэнтраў, 9200 вёсак, правялі больш за 140 карных аперацый, у час якіх спалілі 619 вёсак разам з жыхарамі (увекавечаны ў мемар. комплексе *Хатынь*), з іх 186 не адноўлены пасля вайны.

**Населеныя пункты Беларусі, знішчаныя разам з жыхарамі ў 1941—44 нямецка-фашысцкімі захопнікамі і не адноўленыя пасля вайны.**

**Брэсцкая вобласць.** Жабінкаўскі раён; Драмлёва; Івацэвіцкі раён: Вяда, Красніца, Тупічыцы; Пружанскі раён: Канстанцінава.

**Віцебская вобласць.** Бешанковіцкі раён: Каранёва; Браслаўскі раён: Лабэцкія, Рэпаўшчына; Верхнядзвінскі раён: Абразеева, Агуркі, Аніськава, Баравок, Баравыя, Бузава, Васілеўшчына, Ваўкі, Вянкелева, Гарадзішча, Гваздова, Глінцы, Еськава, Жалабоўшчына, Жарнасекі, Залешчына, Зянькі, Кабыльнікі, Калюты, Канстанцінава, Карзуны, Кулакова, Ладэлева, Латыгава, Лецвякова, Мазалеўшчына, Маркава, Межалы, Немцы, Папартнае, Пляцы, Пустэльнікі, Пушалаты, Рубчыкі, Рэвуты, Скрыпшчына, Сокалава, Стунжава Верхняе, Стунжава Ніжняе, Суф'янікі, Цагельнікі, Ціршава, Шабалы; Віцебскі раён: Аржавухава, Дубавіцы, Дубрава, Лычнева, Падзародня, Плоткі, Подцева, Сазаны, Стукальна, Стэськава, Шухвасты, Шыцікі; Гарадоцкі раён: Ахрамеева, Вусце, Гумнічына, Задобрыя, Кавалі, Казлы, Лапакова, Падранда, Петрачыха, Рудзіха, Сямёнава, Чытавухі, Янава; Докшыцкі раён: Шунеўка; Лепельскі раён: Кісцялёва; Пастаўскі раён: Альцы; Полацкі раён: Арлова, Гаравыя, Гаўрыленкі, Гліснаўка, Загорцы, Казлоўцы, Мартыненкі, Наркаўшчына, Пагары, Царова, Чарбамыслы; Расонскі раён: Ваўкова, Велле, Гарэлая Яма, Гуйды, Плігаўкі, Ражнова; Сенненскі раён: Маразаўка; Ушацкі раён: Асавіна, Мурагі, Ралля, Тухаціна; Чашніцкі раён: Стайчаўка; Шаркоўшчынскі раён: Ігнацэва, Падрэзаўшчына, Станіслававова, Сялібка; Шумілінскі раён: Бачканы, Дражакі, Заазер'е, Залессе, Зуева, Папова, Шчамілаўка, Ямішча.

**Гомельская вобласць.** Акцябрскі раён: Вежын, Перакалле, Рудня, Селішча, Смуга; Ельскі раён: Забалацце, Копанка, Круглае; Жлобінскі раён: Браткі, Грушка, Залессе, Залужжа, Кастрычнік, Краснаўка; Рагачоўскі раён: Адраджэнне; Светлагорскі раён: Ала; Хойніцкі раён: Зялёны Гай, Перавессе.

**Гродзенская вобласць.** Ваўкавыскі раён: Шавулічы; Гродзенскі раён: Полымя, Сіні Камень, Шкленск; Іўеўскі раён: Юраўскія.

**Магілёўская вобласць.** Асіповіцкі раён: Бортнае, Весялова, Май, Макаўе, Старонка; Бялыніцкі раён: Сцефанова; Глускі раён: Паршчаха; Кіраўскі раён: Доўгае Поле, Закрынічча, Пралетарскі, Хватаўка, Чырвоны Араты; Клічаўскі раён: Вязень, Сялец; Крычаўскі раён: Антонаўка.

**Мінская вобласць.** Барысаўскі раён: Люцецкі пасёлак; Вілейскі раён: Боркі, Любча; Дзяржынскі раён: Глухое Перхурава, Літавец, Любажанка; Капыльскі раён: Масявічы; Лагойскі раён: Асавіно, Гані, Дальва, Загор'е, Ідаліна, Мыльніца, Слабада, Трысцень, Тхарніца, Хатынь; Мінскі раён: Каланіцы, Саламарэчча; Салігорскі раён: Дуброўна, Сухая Міля, сядзіба Капацэвіцкай МТС, Хадыка; Слуцкі раён: Беразінец, Гондарава, Задоўба, Лазараў Бор, Лявішча, Пераходы; Смалявіцкі раён: Карамша; Уздзенскі раён: Рудкова, Старына; Чэрвеньскі раён: Буда, Папова Града. Пра кожную вёску гл. асобныя артыкулы.

**Населеныя пункты Беларусі, знішчаныя разам з жыхарамі ў 1941—44 нямецка-фашысцкімі захопнікамі і адноўленыя пасля Айчыннай вайны** (у дужках дадзены колькасць знішчаных жыхароў вёскі і спаленых двароў).

**Брэсцкая вобласць.** Баранавіцкі раён: Застарынне (382 ж., 96 двароў), Колбавічы (162 ж., 65 двароў), Почапава (20 ж., 46 двароў); Брэсцкі раён: Медна (169 ж., 212 двароў), Падлессе Радваніцкае (21 ж., 72 двары), Прыбарава (250 ж., 100 двароў). Рагозна (147 ж., 124 двары), Страдзеч (92 ж., 280 двароў); Бярозаўскі раён: Рэчыца (21 ж., 136 двароў), Сялец (164 ж., 264 двары); Ганцавіцкі раён: Задуб'е (48 ж., 149 двароў); Драгічынскі раён: Вялікі Лес (30 ж., 51 двор), Галік (22 ж., 15 двароў), Сварынь (118 ж., 196 двароў), Сорацні (136 ж., 79 двароў), Хомск (1760 ж., 470 двароў); Жабінкаўскі раён: Ацечызна (278 ж., 16 двароў); Іванаўскі раён: Адрыжын (78 ж., 113 двароў), Вартыцк (82 ж., 108 двароў), Лядавічы (32 ж., 200 двароў), Моталь (2000 ж., 380 двароў), Псычава (65 ж., 113 двароў), Упірава (83 ж., 135 двароў); Івацэвіцкі раён: Баброўвічы (676 ж., 164 двары), Боркі (57 ж., 90 двароў), Була (50 ж., 94 двары), Вулька-Аброўская (21 ж., 150 двароў), Выганішчы (31 ж., 320 двароў), Вялікая Гаць (123 ж., 126 двароў). Галенчыцы (23 ж., 73 двары), Гічыцы (42 ж., 121 двор), Ёдчыкі (25 ж., 86 двароў), Жытлін (128 ж., 130 двароў), Зацішша (125 ж., 37 двароў), Зыбайлы (260 ж., 52 двары), Козікі (39 ж., 119 двароў), Корачын (108 ж., 79 двароў), Святая Воля (436 ж., 137 двароў), Уласаўцы (64 ж., 94 двары), Хадакі (92 ж., 120 двароў); Камянецкі раён: Лескі (198 ж., 42 двары); Кобрын-

скі раён: Барысаўка (206 ж., 225 двароў), Каменка (152 ж., 48 двароў), Лука (30 ж., 75 двароў), Навасёлкі (61 ж., 32 двары), Рэчыца (64 ж., 45 двароў), Чараваччцы (56 ж., 18 двароў); Лунінецкі раён: Багданаўка (34 ж., 395 двароў), Вулька 1-я (43 ж., 136 двароў), Вялікія Чучавічы (165 ж., 291 двор), Гаўрыльчыцы (52 ж., 166 двароў), Дубаўка (33 ж., 51 двор), Дубіца (59 ж., 50 двароў), Лугі (137 ж., 106 двароў), Мелясніца (114 ж., 74 двары), Моршчынавічы (145 ж., 30 двароў), Пясчанка (38 ж., 10 двароў), Сітніцкі Двор (380 ж., 57 двароў), Флярова (23 ж., 38 двароў), Цясна (73 ж., 47 двароў); Ляхавіцкі раён: Залужжа (60 ж., 106 двароў), Навасёлкі (60 ж., 100 двароў), Свяціца (106 ж., 200 двароў); Маларыцкі раён: Арэхава (47 ж., 110 двароў), Багуслаўка (27 ж., 73 двары), Баравая (96 ж., 28 двароў), Брадзяцін (48 ж., 120 двароў), Боркі (711 ж., 171 двор), Забалоцце (289 ж., 120 двароў), Збураж (32 ж., 206 двароў), Навалессе (55 ж., 94 двары), Радзеж (65 ж., 185 двароў), Хаціслаў (36 ж., 109 двароў), Хмелішча (117 ж., 30 двароў); Пінскі раён: Вулька (275 ж., 174 двары), Дубнавічы (23 ж., 250 двароў), Любель-Поль (140 ж., 25 двароў), Невель (214 ж., 150 двароў), Пагос-Загарадск (1200 ж., 15 двароў); Пружанскі раён: Байкі (987 ж., 120 двароў), Казлы (140 ж., 210 двароў), Клепачы (77 ж., 123 двары), Краснае (93 ж., 85 двароў), Ліхачы (44 ж., 48 двароў), Лыскава (536 ж., 90 двароў), Нямковічы (25 ж., 31 двор), Папялёва (25 ж., 40 двароў), Пасталова (22 ж., 21 двор), Сілічы (45 ж., 56 двароў), Труханавічы (24 ж., 55 двароў), Чадзель (38 ж., 93 двары), Чахец (47 ж., 89 двароў); Столінскі раён: Беразцы (28 ж., 203 двары), Варані (97 ж., 137 двароў), Калонія-Расошкі (240 ж., 172 двары), Манькавічы (20 ж., 300 двароў), Рубель (122 ж., 730 двароў).

**Віцебская вобласць.** Браслаўскі раён: Баравыя (194 ж., 45 двароў), Плетарова (90 ж., 19 двароў); Верхнядзвінскі раён: Абухава (93 ж., 55 двароў), Азернікі (45 ж., 15 двароў), Ардаўскае (91 ж., 26 двароў), Бандзелі (34 ж., 11 двароў), Барысава (76 ж., 17 двароў), Валюкі (52 ж., 18 двароў), Галькаўшчына (37 ж., 16 двароў), Задзежжа (74 ж., 33 двары), Запасішкі (17 ж., 13 двароў), Зашчырына (50 ж., 22 двары), Каралёва (95 ж., 28 двароў), Каханавічы (112 ж., 93 двары), Кашалёва (37 ж., 18 двароў), Кісялі (113 ж., 30 двароў), Любасна (203 ж., 42 двары), Марозы (18 ж., 13 двароў), Марцінава (112 ж., 36 двароў), Матукі (30 ж., 11 двароў), Муквяціца (72 ж., 27 двароў), Мушына (63 ж., 19 двароў), Ніжняе Фаміно (34 ж., 17 двароў), Пятроўшчына (104 ж., 18 двароў), Рудня (106 ж., 38 двароў), Сямёнава (112 ж., 70 двароў), Царкоўна (196 ж., 36 двароў), Ярмоліна (139 ж., 13 двароў); Віцебскі раён: Азаркі (60 ж., 15 двароў), Кісялёва (85 ж., 25 двароў), Курына (142 ж., 119 двароў), Малыжана (87 ж., 42 двары), Марчонкі (56 ж., 74 двары), Міхалкова (42 ж., 37 двароў), Пранікі (120 ж., 42 двары), Ціханава (45 ж., 23 двары), Шапурова (102 ж., 28 двароў); Гарадоцкі раён: Азёркі (278 ж., 85 двароў), Азёркі (108 ж., 46 двароў), Бібіна (312 ж., 78 двароў), Баркова (126 ж., 40 двароў), Валадарка (265 ж., 37 двароў), Воранава (78 ж., 18 двароў), Дарахі (256 ж., 64 двары), Задрачча (255 ж., 51 двор), Ляхаўка (310 ж., 62 двары), Мар'ямполь (136 ж., 54 двары), Сіннякі (107 ж., 53 двары), Слабада (39 ж., 25 двароў), Шаламова (230 ж., 46 двароў); Глыбоцкі раён: Галубічы (216 ж., 46 двароў); Докшыцкі раён: Адрубак (50 ж., 83 двары), Вольберавічы (50 ж., 55 двароў), Гарэлае (103 ж., 63 двары), Мількунь (112 ж., 65 двароў), П'яны Лес (з 1964 Сасновая, 109 ж., 45 двароў), Чарніца 1-я (52 ж., 40 двароў); Лепельскі раён: Пастрэжжа (60 ж., 21 двор), Слабодка (127 ж., 28 двароў); Лёзненскі раён: Асёткі (118 ж., 42 двары), Асіпова (300 ж., 112 двароў), Асташэва (120 ж., 40 двароў), Бель (26 ж., 16 двароў), Бор (80 ж., 24 двары), Браткава (120 ж., 37 двароў), Буракі (71 ж., 27 двароў), Вялікая Выдрэя (164 ж., 52 двары), Вялікія Калінавічы (117 ж., 34 двары), Добрына (115 ж., 33 двары), Забалацце (290 ж., 34 двары), Загаране (85 ж., 26 двароў), Іванькава (150 ж., 36 двароў), Клімчонкі (66 ж., 24 двары), Курцёнкі (112 ж., 31 двор), Мерзлякова (180 ж., 60 двароў), Ордзеж (102 ж., 44 двары), Пагосцішча (120 ж., 50 двароў), Рудакі (125 ж., 37 двароў), Рэчкі (125 ж., 26 двароў), Сасновая Насца (85 ж., 38 двароў), Сімашкава (120 ж., 39 двароў), Хоцемля (190 ж., 45 двароў), Чаркасы (260 ж., 50 двароў), Чарнышы (180 ж., 76 двароў), Швяды (140 ж., 28 двароў), Шніткі (90 ж., 43 двары), Шугаёва (220 ж., 40 двароў); Міёрскі раён: Сухавежа (60 ж., 30 двароў); Полацкі раён: Бабынічы (112 ж., 26 двароў), Гарнаполле (92 ж., 10 двароў), Жарцы (101 ж., 29 двароў); Расонскі раён: Баканіха (65 ж., 14 двароў), Гарбачэва (307 ж., 111 двароў), Сляўшчына (169 ж., 64 двары), Юхавічы (393 ж., 166 двароў); Ушацкі раён: Бабавішча (432 ж., 12 двароў), Загаваліна (68 ж., 81 двор), Кублічы (109 ж., 115 двароў), Слаўнае, Шасцярні (72 ж., 30 двароў); Чашніцкі раён: Вішанькі (116 ж., 29 двароў), Красналукі (306 ж., 56 двароў), Лукомль (180 ж., 32 двары); Шаркоўшчынскі раён: Еды (510 ж., 261 двор), Кушталі (40 ж., 18 двароў), Трабаўшчына (192 ж., 47 двароў); Шумілінскі раён: Барсукі (36 ж., 18 двароў), Гульбішча (32 ж., 18 двароў), Ужляціна (90 ж., 38 двароў), Цiжма (27 ж., 10 двароў).

**Гомельская вобласць.** Акцябрскі раён: Альбінск (137 ж., 61 двор), Гарохавішчы (130 ж., 120 двароў), Дзербін (283 ж., 47 двароў), Забалацце (192 ж., 142 двары), Кавалі (533 ж., 134 двары), Курын (506 ж., 138 двароў), Лаўстыкі (335 ж., 115 двароў), Ляскавічы (171 ж., 52 двары), Рабкор (50 ж., 20 двароў), Ражаноў (31 ж., 17 двароў), Старая Дуброва (100 ж., 24 двары), Харомцы (233 ж., 111 двароў); Ельскі раён: Вярхі (100 ж., 46 двароў), Мікалаеўка (85 ж., 39 двароў), Нававысокае (212 ж., 135 двароў), Скароднае (305 ж., 206 двароў); Жлобінскі раён: Антонаўка (112 ж., 93 двары), Кароткавічы (331 ж., 265 двароў), Праскурні (230 ж., 216 двароў), Чорная Вірня (105 ж., 112 двароў); Жыткавіцкі раён: Беразнякі (212 ж., 124 двары), Буда (308 ж., 87 двароў), Дзякавічы (651 ж., 225 двароў), Ельна (112 ж., 42 двары), Залюцічы (220 ж., 96 двароў), Запясочча (300 ж., 250 двароў), Ленін (1046 ж., 351 двор), Старыя Мілевічы (437 ж., 164 двары), Поўчын (58 ж., 32 двары); Калінкавіцкі раён: Лозкі (238 ж., 125 двароў), Сышчыцы (110 ж., 70 двароў); Лельчыцкі раён: Глушкавічы (300 ж., 364 двары), Мяхач (23 ж., 14 двароў), Тонеж (259 ж., 375 двароў); Мазырскі раён: Буда Казіміраўская (175 ж., 32 двары), Казіміраўка (249 ж., 76 двароў), Касцюковічы (149 ж., 150 двароў); Петрыкаўскі раён: Беразнякі (370 ж., 87 двароў), Вялікія Сялюцічы (387 ж., 180 двароў), Зарэчка (127 ж., 125 двароў), Людзвіноў (125 ж., 5 двароў), Хвойня (1412 ж., 350 двароў); Рагачоўскі раён: Каменка (153 ж., 100 двароў), Сялец (221 ж., 67 двароў), Талочкаў (213 ж., 61 двор), Фалевічы (235 ж., 120 двароў); Рэчыцкі раён: Борхаў (99 ж., 50 двароў), Кабылева (Першамайск, 1118 ж., 280 двароў); Светлагорскі раён: Астроўчыцы (260 ж., 89 двароў), Малімоны (119 ж., 62 двары), Печышчы (165 ж., 53 двары); Хойніцкі раён: Алексічы (152 ж., 141 двор), Масаны (173 ж., 72 двары), Уласы (141 ж., 120 двароў).

**Гродзенская вобласць.** Гродзенскі раён: Пузавічы (Партызанская, 496 ж., 84 двары); Дзятлаўскі раён: Вялікая Воля (362 ж., 104 двары), Гарадкі (290 ж., 48 двароў), Дварэц (40 ж., 320 двароў), Пушча Ліпічанская (109 ж., 106 двароў), Трахімавічы (147 ж., 22 двары); Іўеўскі раён: Ятаўтовічы (96 ж., 34 двары); Карэліцкі раён: Новае Сяло (214 ж., 106 двароў); Лідскі раён: Леснікі (90 ж., 99 двароў); Мастоўскі раён: Баяры (50 ж., 23 двары), Задвор'е (151 ж., 75 двароў), Княжаводцы (900 ж., 260

двароў); Слонімскі раён: Акунінава (305 ж., 111 двароў), Баравікі (123 ж., 40 двароў), Ніз (268 ж., 56 двароў), Паўлавічы (224 ж., 34 двары), Сяркі (87 ж., 28 двароў); Шчучынскі раён: Агародзішча (148 ж., 28 двароў), Зінякі (484 ж., 86 двароў).

**Магілёўская вобласць.** Асіповіцкі раён: Асавок (141 ж.), Бозак (496 ж., 103 двары), Брыцалавічы (702 ж., 144 двары), Буда (42 ж., 18 дварoў), Вялікая Гарожа (219 ж., 118 дварoў), Вярбілава (45 ж., 13 дварoў), Лочын (436 ж., 77 дварoў), Пагарэлае (127 ж., 136 дварoў), Палядкі (79 ж., 41 двор); Быхаўскі раён: Боўкі (174 ж., 298 дварoў), Ветранка (287 ж., 260 дварoў), Віляга (173 ж., 27 дварoў), Гарадзец (600 ж., 297 дварoў), Дабужа (117 ж., 124 двары), Смаліца (140 ж., 215 дварoў), Студзёнка (442 ж., 160 дварoў), Сяліба (52 ж., 52 двары), Хамічы (30 ж., 15 дварoў); Бялыніцкі раён: Брэнькаў (22 ж., 16 дварoў), Галоўчын (201 ж., 178 дварoў), Заазер'е (22 ж., 108 дварoў), Малінаўка (53 ж., 27 дварoў), Пільшычы (35 ж., 85 дварoў), Сныткі (20 ж., 33 двары), Угольшчына (38 ж., 110 дварoў); Глускі раён: Белыя (18 ж., 12 дварoў), Масты (52 ж., 22 двары), Славіна (41 ж., 27 дварoў), Уюнішча (23 ж., 48 дварoў); Горацкі раён: Напраснаўка (92 ж.), Новае Прыбужжа (233 ж., 153 двары), Расна (410 ж., 109 дварoў); Касцюковіцкі раён: Баравая (24 ж., 45 дварoў), Зацішша (37 ж., 33 двары), Кавычыцы (24 ж., 85 дварoў), Панькаўская Буда (34 ж., 185 дварoў), Сматэвічы (276 ж., 16 дварoў); Кіраўскі раён: Ахоцічы (53 ж., 81 двор), Бераснёўка (22 ж., 52 двары), Боркі (486 ж., 69 дварoў), Гарадзец (40 ж., 193 двары), Гогаль (22 ж., 39 дварoў), Дзяржынскі (223 ж., 30 дварoў), Збышын (224 ж., 84 двары), Казулічы (318 ж., 180 дварoў), Кострыцкая Слабодка (137 ж., 224 двары), Кострычы (60 ж., 203 двары), Колбава (93 ж., 170 дварoў), Новы Гарадок (21 ж., 47 дварoў), Нямкі (72 ж., 85 дварoў), Грыбава Слабада (77 ж., 68 дварoў), Чыгірынка (42 ж., 120 дварoў); Клімавіцкі раён: Карпачы (63 ж., 12 дварoў); Клічаўскі раён: Дубно (120 ж., 117 дварoў); Круглянскі раён: Бярозка (58 ж., 19 дварoў), Вугляны (21 ж., 36 дварoў), Гоенка (67 ж., 35 дварoў), Дарожкавічы (33 ж., 84 двары), Казёл (21 ж., 16 дварoў), Круча (191 ж., 170 дварoў), Сталі (31 ж., 67 дварoў), Старое Палессе (31 ж., 60 дварoў), Цяцерына (188 ж., 119 дварoў), Шапялевічы (106 ж., 130 дварoў); Крычаўскі раён: Маляцічы (210 ж., 97 дварoў); Магілёўскі раён: Гарадзішча (138 ж., 69 дварoў), Гараны (250 ж., 67 дварoў), Дубінка (216 ж., 79 дварoў), Залубнішча (61 ж., 27 дварoў), Масток (227 ж., 258 дварoў), Пясчанка (52 ж., 89 дварoў), Туманаўка (38 ж., 15 дварoў); Мсціслаўскі раён: Ракіцінка (32 ж., 60 дварoў), Шамава (500 ж., 208 дварoў); Чавускі раён: Астравы (30 ж., 150 дварoў), Аўхімкі (27 ж., 33 двары), Бясчынне (24 ж., 17 дварoў), Доўгі Мох (53 ж., 44 двары), Дрануха (72 ж., 24 двары), Зялёны Прудок (28 ж., 34 двары), Капані (25 ж., 171 двор), Радучы (40 ж., 26 дварoў), Раман-Віна (20 ж., 80 дварoў), Усушак (20 ж., 128 дварoў), Цемравічы (23 ж., 12 дварoў), Чарэнкі (20 ж., 64 двары), Чырвоная Паляна (38 ж., 35 дварoў); Чэрыкаўскі раён: Бакунавічы (32 ж., 95 дварoў), Рагаліна (36 ж., 70 дварoў); Шклоўскі раён: Белая (200 ж., 120 дварoў), Жданавічы (240 ж., 46 дварoў), Праабражэнск (218 ж., 130 дварoў), Рабкі (34 ж., 62 двары), Трылесіна (29 ж., 20 дварoў).

**Мінская вобласць.** Барысаўскі раён: Брыгідава (82 ж., 19 дварoў), Валокі (314 ж., 141 двор), Гасцілава (27 ж., 14 дварoў), Замошша (118 ж., 60 дварoў), Іканы (550 ж., 65 дварoў), Крушына (20 ж., 8 дварoў), Мсціж (113 ж., 54 двары), Новае Сяло (148 ж., 44 двары), Разліцце (200 ж., 45 дварoў); Старынкі (92 ж., 26 дварoў), Цешкаўка (57 ж., 20 дварoў); Бярэзінскі раён: Баравіно (208 ж., 75 дварoў), Краснoе (86 ж., 33 двары); Валожынскі раён: Козлікі (170 ж., 47 дварoў), Янушкавічы (67 ж., 25 дварoў); Дзяржынскі раён: Садкаўшчына (96 ж., 15 дварoў), Скірмантава (162 ж., 38 дварoў); Капыльскі раён: Вялікія Прусы (254 ж., 121 двор); Калодзезнае (213 ж., 57 дварoў), Рулёва (22 ж., 11 дварoў); Крупскі раён: Узнаж (361 ж., 68 дварoў), Сомры (132 ж., 65 дварoў); Лагойскі раён: Альхоўка (25 ж., 12 дварoў), Ганцавічы (145 ж., 80 дварoў), Гарадзішча (147 ж., 52 двары), Дунаі (48 ж., 22 двары), Кандратавічы (135 ж., 75 дварoў), Наваганцавічы (27 ж., 26 дварoў), Ніўкі (238 ж., 52 двары), Новае Заполле (26 ж., 26 дварoў), Прудкі (182 ж., 71 двор), Старынкі (20 ж., 19 дварoў); Мінскі раён: Вышкава (190 ж., 40 дварoў), Лясіны; Пухавіцкі раён: Беразянка (43 ж., 19 дварoў), Валасач (104 ж., 45 дварoў), Прыстань (208 ж., 100 дварoў); Салігорскі раён: Вейна (86 ж., 48 дварoў), Восава (192 ж., 75 дварoў), Вялікі Лес (163 ж., 60 дварoў), Даманавічы (270 ж., 142 двары), Заброддзе (215 ж., 64 двары), Заглінае (150 ж., 35 дварoў), Капацэвічы (426 ж., 126 дварoў), Новыя Вялічкавічы (222 ж., 66 дварoў), Пісаравічы (234 ж., 53 двары), Пузічы (783 ж., 160 дварoў), Старыя Вялічкавічы (131 ж., 33 двары), Яскавічы (305 ж., 160 дварoў); Слуцкі раён: Адамова (190 ж., 40 дварoў), Палікараўка (96 ж., 38 дварoў), Руднаўка (28 ж., 12 дварoў), Чырвоная Старонка (10 ж., 30 дварoў); Смалявіцкі раён: Багута (115 ж., 43 двары), Крывая Паляна (51 ж., 18 дварoў), Хацнава (184 ж., 75 дварoў); Чэрвеньскі раён: Усохі (80 ж., 39 дварoў).

**НАЦКАЯ АПЕРАЦЫЯ 1942**, падрыў партыз. атрадам 277-м (гл. ў арт. *Партызанскі полк 277-ы*) чыг. моста цераз р. Нача на лініі Барысаў — Крупкі 9.9.1942.

Мост цераз р. Нача за 8 км на захад ад ст. Крупкі меў стратэгічнае значэнне на чыг. магістралі Мінск — Орша. Яго ахоўваў фаш. гарнізон колькасцю каля 70 гітлераўцаў. Буйныя гарнізоны праціўніка знаходзіліся на найбліжэйшых ст. Крупкі, Барысаў, Бобр, у в. Нача. Аперацыя праведзена ў ноч на 9.9.1942 паводле загада *Клічаўскага аператыўнага цэнтра*.

Падрыхтавалі план і кіравалі аперацыяй камандзір атрада С. А. Мазур і камісар І. З. *Ізох*. Пад агнявым прыкрыццём партызаны атакавалі і знішчылі ахову моста, заклалі ўзрыўчатку і ўзарвалі яго. У ходзе аперацыі партызаны пусцілі пад адхон састаў з падмацаваннем, якое спяшалася на дапамогу ахове моста. Адначасова партызаны разграмілі ў в. Нача атрад карнікаў. Агнём баявой аховы было сустрэта і адкінута падмацаванне (30 гітлераўцаў), якое паслана акупантамі з г. п. Крупкі. У выніку аперацыі рух на гэтай магістралі перапынены на 6 сутак.

*М. У. Філімоненкаў.*

**НАЦЫЯНАЛЬНЫ КАМІТЭТ «СВАБОДНАЯ ГЕРМАНІЯ»** (НКСГ), кіруючы орган руху ням. патрыётаў-антыфашыстаў, створаны па ініцыятыве ЦК КПГ на тэр. СССР у ліп. 1943.

Выдаваў газету, антыфаш. лістоўкі і брашуры, вёў прапаганду праз радыёстанцыю «Свабодная Германія». Члены камітэта праводзілі палітыка-растлумачальную работу сярод ням. ваеннапалонных. На розных участках сав.-германскага фронту прапагандысты групы НКСГ з дапамогай гучнагаварыцеляў і лістовак растлумачвалі ваеннаслужачым вермахта мэты НКСГ, даказвалі непазбежнасць паражэння гітлераўскай арміі. Найбольш выпрабаваныя і вопытныя змагары супраць фашызму засылаліся ў тыл ням.-фаш. войск.

На тэр. Беларусі ў сак.— ліп. 1944 дзейнічалі 2 групы НКСГ. Група № 117 у саставе антыфашыстаў Ф. Шэфлера, Г. Генчке, О. Мейера, Э. Карвінскага, Г. Кронаўэра, К. Рынагеля і інш., сав. афіцэраў А. А. Казлова, І. А. Коласа, Г. Ф. Храмушынай дыслацыравалася ў распалажэнні партыз. брыгады імя Чкалава і імя Сталіна Баранавіцкай вобл. Выдала ў паходнай друкарні 40 назваў лістовак тыражом некалькі тысяч экз. і распаўсюдзіла іх у варожых гарнізонах у Мінску, Дзяржынску, Баранавічах, Барысаве і інш. У час *Беларускай аперацыі 1944* чл. групы выступалі ў ролі «рэгуліроўшчыкаў» і накіроў-

валі адступаючыя часці гітлераўцаў па дарогах, якія кантраляваліся партызанамі. Дзейнічаючы як парламенцёры і перакладчыкі, антыфашысты сустракаліся з салдатамі і афіцэрамі вермахта, пераконвалі іх у бессэнсоўнасці супраціўлення і прапаноўвалі ім скласці зброю. Партыз. брыгада імя Сталіна з дапамогай антыфашыстаў узяла 69 афіцэраў і больш за 3 тыс. салдат, якія добраахвотна здаліся ў палон. Група ў саставе антыфашыстаў Г. Шауэра, А. Готэ, Т. Цымермана, Э. Апельта і інш. на чале з палітработнікам М. Д. Дзятленкам размяшчалася ў раёне дзеянняў *партызанскай брыгады Лагойскай «Бальшавік»*. Антыфашысты надрукавалі на партатыўным станку 15 лістовак тыражом 150—800 экз. і з дапамогай партызан і падпольшчыкаў распаўсюдзілі іх у 24 населеных пунктах, дзе дыслацыраваліся варожыя гарнізоны, у т. л. ў Мінску, Маладзечне, Вілейцы, Красным, Лагойску, Плешчаніцах.

*І. С. Барысаў.*

**«НА́ША ПЕРАМО́ГА»**, газета, заснавана ў 1932 пад наз. «Калгаснік». У час ням.-фаш. акупацыі орган Лоеўскага падп. РК КП(б)Б. Выдавалася ў студз.—ліст. 1943. Вядомы № 3 ад 5.10.1943 на бел. мове. Пасля вызвалення выходзіла пад наз. «Калгасная перамога», з 1959 «За камуністычную працу», з 1967—«Серп і молат», орган Лоеўскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**НЕ́МЦЫ**, вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1,5 км на Пд ад в. Ворзава Бігосаўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 49 чал. 16.2.1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»*, фашысты загубілі 22 жыхароў, вёску (11 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1975 на месцы б. вёскі насыпаны курган, пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь*.

**НЕПАЧАЛО́ВІЧ** Іван Барысавіч (н. 15.1. 1922, в. Арэхаўка Старадарожскага р-на), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1944. Скончыў Мінскі аэраклуб (1941), Тамбоўскае авіяц. вучылішча (1943), Ваен.-паветр. акадэмію (1955). З ліст. 1943 на 3-м Укр. фронце. Удзельнік вызвалення Украіны, Малдавіі, Румыніі, Балгарыі, Югаславіі, Венгрыі, лётчык-штурмавік. Зрабіў 179 баявых вылетаў, удзельнічаў у 17 паветр. баях, збіў самалёт, знішчыў 12 танкаў, 7 бронетранспарцёраў, 16 гармат, 37 аўтамашын і шмат інш. тэхнікі праціўніка. Да 1965 у Сав. Арміі, падпалкоўнік. Жыве і працуе ў Мінску.


І. Б. Непачаловіч.


І. Ф. Несцераў.


П. У. Несцяровіч.


У. С. Несцярук.


М. А. Неўскі.


І. С. Нікалаеў.

**НЕ́СЦЕРАЎ** Іван Фірсавіч (н. 7.7.1904, в. Таўкачы Шклоўскага р-на), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1926. З 1942 на Сталінградскім, 2-м і 3-м Укр. франтах. Нам. камандзіра батальёна па палітчастцы капітан Н. вызначыўся пры фарсіраванні Дуная ў Венгрыі. 4.12.1944 на чале роты ўварваўся на прыстань, у рукапашным баі рота знішчыла каля 100 гітлераўцаў, адбіла 4 контратакі, што садзейнічала пераправе батальёна. Пасля вайны да 1962 на сав. і парт. рабоце.

**НЕСЦЯРО́ВІЧ** Павел Уладзіміравіч (8. 7.1913, в. Енцы Кармянскага р-на — 7.9.1974), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1944. На фронце з 1943. Удзельнік Курскай бітвы, вызвалення Рэчыцы, Бабруйска, Асіповіч, Баранавіч, Польшчы, баёў ва Усх. Прусіі. Сапёр сяржант Н. вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра каля Лоева. 15.10.1943 з групай байцоў пераадолеў раку, нацягнуў канат для парома; 16.10.1943 пад агнём ворага пераправіў 9 працітанк. гармат, 6 мінамётных батарэй. Пасля вайны ў органах МУС БССР. Яго імем названа вуліца ў в. Енцы.

**НЕСЦЯРУ́К** Уладзімір Сцяпанавіч (н. 16.2.1900, в. Бушмічы Камянецкага р-на), ген.-лейт. артылерыі (1944). Чл. КПСС з 1920. У Чырв. Арміі з 1918. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1936). Удзельнік грамадз., сав.-фінл. 1939—40 войнаў. У Айч. вайну на Карэльскім, Бранскім, 2-м Прыбалт. і 3-м Укр. франтах: камандуючы артылерыяй арміі, нам. камандуючага артылерыяй фронту, камандзір арт. корпуса. Удзельнік абарончых баёў у Карэліі, Курскай бітвы, Дзвінскай, Рыжскай, Балатонскай, Венскай аперацый. Пасля вайны да 1956 на камандных пасадах у Сав. Арміі.

**НЕ́ЎСКІ** Мікалай Арсенавіч (н. 22.2. 1922, Гомель), Герой Сав. Саюза (1945). Канд. ваен. навук (1953), дацэнт (1955). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Ваен. арт. акадэмію імя Дзяржынскага (1950). З сак. 1943 на Паўн.-Зах., 2-м Прыбалт., 1-м Бел. франтах. Камандзір арт. дывізіёна маёр Н. вызначыўся ў *Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944*. Дывізіён пад яго камандаваннем удзельнічаў у наступальных баях ад Буга да Віслы. 29—31.7.1944 трапным агнём садзейнічаў захопу плацдарма на левым беразе Віслы каля г. Пулавы; 16—26.8. 1944 у баях за расшырэнне плацдарма паранены, не пакінуў поля бою. Да 1982 выкладчык ваен. акадэміі, палкоўнік (1955), потым супрацоўнік навукова-даследчага ін-та.

**НЁМАНСКІЯ ВАЙСКО́ВЫЯ ЗЛУЧЭ́ННІ І ЧА́СЦІ.** За фарсіраванне Нёмана ў час *Беларускай аперацыі 1944* ганаровае найменне «Нёманскіх» загадамі ВГК ад 12.8.1944 і 28.11.1944 атрымалі 45 злучэнняў і часцей 2-га і 3-га Бел. франтоў.

Часці і злучэнні, якім нададзены ганаровыя найменні «Нёманскіх»: 8-ы (ген.-лейт. М. М. Завадоўскі) і 36-ы (ген.-маёр П. Р. Шафранаў) гвардзейскія, 36-ы (ген.-маёр К. І. Правалаў), 45-ы (ген.-маёр С. Ф. Гарохаў), 62-і (ген.-маёр А. Ф. Навумаў, з 4.8.1944 ген.-маёр Я. С. Вараб'ёў) і 71-ы (ген.-лейт. П. К. Кашавой) стралк. карпусы, 157-я (палк. В. А. Кацюшын) і 338-я (ген.-маёр А. Р. Бабаян) стралк. дывізіі, 20-я (палк. Д. А. Кулікоў) і 34-я (палк. П. С. Шульга) зенітныя арт. дывізіі, 15-я гвардз. (палк. А. Ф. Сакалоў), 99-я цяжкая гаўбічная (палк. С. І. Далгоў) і 149-я армейская пушачная (палк. І. В. Аўраамаў) арт. брыгады, 3-я штурмавая інж.-сапёрная (палк. В. С. Зайцаў), 8-я пантонна-маставая і 66-я інж.-сапёрная (падпалк. А. А. Чарапанаў) брыгады, 104-ы, 262-і, 491-ы, 612-ы, 707-ы, 757-ы і 1231-ы стралк. палкі, 401-ы, 598-ы, 600-ы арт. палкі, 231-ы зе-

нітны арт. полк, 551-ы і 696-ы армейскія знішчальныя процітанк. арт. палкі, 726-ы і 1280-ы армейскія зенітныя арт. палкі, 538-ы армейскі мінамётны полк, 1-ы асобны «Нармандыя», 291-ы і 937-ы знішчальныя авіяц. палкі, 354-ы асобны авіяц. полк сувязі, 10-ы асобны полк сувязі, 14-ы і 15-ы асобныя агнямётныя батальёны, 11-ы асобны мостабудаўнічы батальён, 101-ы асобны матарызаваны пантонна-маставы батальён, 200-ы і 220-ы асобныя сапёрныя батальёны, 207-ы інж.-сапёрны батальён і 495-ы асобны лінейны батальён сувязі. *М. І. Камінскі.*

**НІГАМА́ЕЎ** Шайхуш Нігамаевіч (н. 21.12.1915, с. Ніжні Сып Уінскага р-на Пермскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай і Вілейскай абл. Чл. КПСС з 1941. Скончыў Пермскую парт. школу (1953). З 1932 на пед. рабоце. З чэрв. 1941 на Зах. і Калінінскім франтах. У партызанах з ліп. 1942, з кастр. 1942 в. а. камандзіра атрада, у снеж. 1942— сак. 1943 в. а. камісара, у ліст. 1943— ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады імя К. К. Ракасоўскага*, адначасова чл. Дунілавіцкага падп. РК КП(б)Б. У 1944—76 на парт., сав. і адм.-гасп. рабоце ў Віцебскай і Пермскай абл.

**НІ́ЖНІК** Іван Парфіравіч (н. 14.8. 1912, с. Вялікаміхайлаўка Пакроўскага р-на Днепрапятроўскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1939. З 1937 на камсам. рабоце. З чэрв. 1941 на фронце. У партызанах з жн. 1941: палітрук роты, з крас. 1943 камісар атрада, у жн. 1943—чэрв. 1944— *партызанскага палка 15-га.* У 1947—72 у Запарожжы.

**НІ́ЖНЯЕ СТУ́НЖАВА**, вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на Пд ад в. Сар'я. Перад вайной у ёй жыло 73 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»*, фашысты загубілі 64 жыхароў, вёску (12 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1982 на месцы вёскі насыпаны курган, пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**НІЗЯ́НСКАЕ КАМСАМО́ЛЬСКА-МАЛАДЗЕЖНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала ў ліп. 1941— крас. 1942 у вёсках Нізяны і Паўлоўшчына Поразаўскага (цяпер Ваўкавыскага) р-на. Аб'ядноўвала 12 чал., у т. л. 5 камсамольцаў, кіраўнік М. І. Амшэй.

Патрыёты збіралі зброю і перадавалі яе партызанам, псавалі тэлеграфную сувязь акупантаў, ратавалі сав. ваеннапалонных. Падпольшчыкі мелі радыёпрыёмнік, па якім слухалі зводкі Саўінфармбюро, перапісвалі іх і распаўсюджвалі сярод насельніцтва. 7.11.1941 вывесілі ў радзе вёсак чырвоныя сцягі і транспаранты, прысвечаныя 24-й гадавіне Вял. Кастрычніка.

29.4.1942 фашысты арыштавалі падпольшчыкаў і пасля катаванняў у чэрв. 1942 расстралялі. У барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў загінулі М. І. Агей, П. С. Александровіч, М. І. Амшэй, Л. Г. Бакач, С. І. Бацвінка, І. В. Бурак, У. І. Заблоцкі, І. С. Зінкевіч, М. Казлоў, Г. І. Прохар, І. П. Смурага, М. Трушкоў. Пахаваны ў Ваўкавыску, на магіле помнік. У в. Нізяны ў гонар падпольшчыкаў і загінуўшых воінаў-землякоў у 1976 узведзены помнік, на будынку клуба ў памяць аб падпольшчыках у 1966 устаноўлена мемар. дошка. *Л. В. Аржаева.*

**НІКАЛА́ЕНКА** Яўген Маркавіч (17.9. 1905, в. Вудага Чэрыкаўскага р-на Магілёўскай вобл.— 16.4.1961), Герой Сав. Саюза (1939), ген.-лейт. авіяцыі (1945). Чл. КПСС з 1929. Скончыў Ваен. акадэмію Генштаба (1952). У 1935—41 камандзір авіяц. звяна, атрада, эскадрыллі, нач. ваен. авіяшколы, камандзір авіядывізіі, нам. камандуючага, камандуючы ВПС акругі. Вызначыўся пры выкананні спец. ўрадавага задання. У перыяд Айч. вайны на Паўд., Крымскім, Зах., Паўд.-Зах., 3-м Бел. франтах, удзельнік баёў пад Масквой, у Крыме, Усх. Прусіі — камандуючы ВПС арміі, нам. камандуючага, камандуючы ВПС фронту, нач. авіяшколы, курсаў, нам. камандуючага паветр. арміяй. Да 1955 на адказных пасадах у ВПС.

**НІКАЛА́ЕЎ** Іван Стафанавіч (21.5. 1916, г. Клімавічы —11.4.1945), Герой Сав. Саюза (1946). Чл. КПСС з 1943. З 1942 на Калінінскім, Варонежскім, 1-м і 2-м Укр. франтах. Зрабіў 135 баявых вылетаў. Камандзір эскадрыллі штурмавога авіяпалка, маёр Н. 5.11.1943 у баях за Кіеў на чале групы штурмавікоў нанёс ворагу вял. страты, забяспечыў поспех наступлення наземных войск; 15.2.1945 на ст. Ясберэнь (Венгрыя) знішчыў паравоз, 7 вагонаў, 10 аўтамашын. Загінуў у баі. У Клімавічах імем Н. названы вуліца і школа, дзе ён вучыўся.

**НІКАЛА́ЕЎ** Мікалай Якаўлевіч [3.12. 1922, в. Дрычалукі (цяпер Парэчча) Віцебскага р-на —11.6.1984], адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсам.-маладзёжнага падполля ў Віцебскай і Мінскай абл. Чл. КПСС з 1946. Скончыў БДУ імя Леніна (1948). Канд. гіст. навук (1971), дацэнт (1980). З крас. 1942 партызан 1-й Бел. партыз. брыгады, з мая слухач спецшколы ЦК КП(б)Б. У кастр. 1942 накіраваны ўпаўнаважаным ЦК ЛКСМБ па Мінскай зоне. З 12.12. 1942 да 4.7.1944 1-ы сакратар *Мінскага падпольнага гаркома ЛКСМБ*, адначасова з 30.9.1943 да 2.7.1944 чл. Заслаўскага падпольнага РК ЛКСМБ. У 1944—84 на камсам. і выкладчыцкай рабоце.

**НІКА́НДРАВА** Ганна Аляксееўна (13.10.1921, в. Барашкіна Краснагорскага р-на Пскоўскай вобл.— 23.6. 1944), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1942. На фронце з 1941. Камсорг стралк. батальёна ст. лейтэнант Н. вызначылася ў баі пры прарыве абароны праціўніка ў Дубровенскім р-не. 23.6.1944 у час наступлення палка каля в. Кіраёва пяхота трапіла пад моцны агонь праціўніка і залягла. Н. першая паднялася ў атаку і павяла за сабой байцоў. Загінула ў гэтым баі. Пахавана ў г. Дуброўна ў брацкай магіле, на пастаменце бюст Н. Яе імем названы вуліцы ў Дуброўне, Оршы. Подзвіг Н. увекавечаны ў мемар. комплексе *Рыленкі* ў Дубровенскім р-не.

Я. М. Нікалаенка. Г. А. Нікандрава.



**НІКІ́ФАРАЎ** Вячаслаў Кандрацьевіч (падп. псеўданімы Вацік, Максім, Цімафееў; 1909 — люты 1943), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў *Мінскага партыйнага падполля.* Чл. КПСС з 1942. Перад вайной працаваў у Бел. канторы Галоўнафтазбыту. З першых дзён акупацыі Мінска ўключыўся ў падп. дзейнасць, адзін з ініцыятараў стварэння і кіраўнік падп. парт. групы работнікаў Галоўнафтазбыту. Удзельнічаў у выратаванні савецкіх ваеннапалонных, адпраўцы іх у партыз. атрады. Прымаў па радыё і распаўсюджваў зводкі Саўінфармбюро. На яго кватэры падпольшчыкі праводзілі нарады, хавалі сав. літаратуру, шрыфты, пісалі антыфаш. лістоўкі. Са студз. 1942 член, з 26.5.1942 заг. аддзела агітацыі і прапаганды *Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б.* У жн.—вер. 1942 кіраваў падрыхтоўкай матэрыялаў і выпускам падп. газ. *«Звязда»* (№ 2—4). 25.9.1942 схоплены фашыстамі. Знішчаны ў Трасцянецкім лагеры смерці.

**НІКІ́ФАРАЎ** Пётр Паўлавіч (29.7.1917, Віцебск— 7.4.1971), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1940. Скончыў Барысаглебскую школу лётчыкаў (1939). З мая 1942 на фронце, удзельнік Сталінградскай і Курскай бітваў, вызвалення Украіны, Польшчы, Румыніі, Чэхаславакіі, капітан, штурман знішчальнага авіяпалка. Зрабіў 297 баявых вылетаў, правёў 69 паветр. баёў, збіў 20 самалётаў. Да 1960 у Сав. Арміі, палкоўнік. Да 1971 на гасп. рабоце.

**НІКІЦІН** Васіль Лукіч (н. 30.12.1915, в. Піхцяі Віцебскага р-на), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1939. Скончыў ВПШ пры ЦК КПСС (1958). З 1936 у пагранічных войсках. З чэрв. 1941 на Зах. фронце. У партызанах з ліп. 1942: палітрук узвода, з студз. 1943 камандзір 539-га атрада (з чэрв. 1944— *партызанская брыгада 9-я імя С. М. Кірава*). З 1944 на парт. і сав. рабоце. Дэп. ВС БССР у 1967—71.

В. К. Нікіфараў. П. П. Нікіфараў.



**НІКІЦІН** Мікалай Міхайлавіч (24.12. 1907, г. Смаргонь —3.6.1957), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1928. Скончыў Арлоўскую аўтабранятанк. школу (1928). У 1920-я г. рабочы мінскага з-да «Камунар». З 1932 на камандных пасадах у Кіеўскім і Бел. ваен. акругах. У 1941 удзельнік абароны Гомеля. Са студз. 1942 удзельнік Мінскага камуністычнага падполля, па заданню якога ў сак.— маі 1942 аб'яднаў асобныя партыз. групы ў атрад. З мая 1942 камандзір атрада, у ліп.— ліст. 1942— *партызанскай брыгады М. М. Нікіціна*.

**НІКІЦІН** Фёдар Пракопавіч (13.4. 1913, в. Полькавічы Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл.— 3.11.1979), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1949. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну з 1943 партызан 540-га асобнага партыз. атрада Магілёўскай вобл., з 1944 на фронце. Камандзір стралк. аддзялення, сяржант, вызначыўся ў баі пры вызваленні Чавускага р-на ў чэрв. 1944. На чале аддзялення прабраўся ў тыл ворага і знішчыў каля 100 гітлераўцаў. Аддзяленне трапіла ў акружэнне, калі байцы загінулі, адзін адбіваў атакі праціўніка. Пасля вайны працаваў у Бабруйску.

**НІЎЕ**, вёска на тэр. Расонскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з часткай жыхароў. Знаходзілася за 1,5 км на У ад в. Казімірава Клясціцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жылі 62 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 14 жыхароў, вёску (12 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1967 на магіле ахвяр фашызму (непадалёку ад в. Пірагі Клясціцкага сельсавета) пастаўлены абеліск.

**НІЧЫПАРО́ВІЧ** Уладзімір Іванавіч (2.3.1900, с. Багародскае Загорскага р-на Маскоўскай вобл.—31.1.1945), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху на Беларусі. Ген.-маёр (1943). Чл. КПСС з 1928. Удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Маскве. З 1917 у Чырв. гвардыі, з 1918 у Чырв. Арміі, удзельнік грамадз. вайны. З 1924 на камандных пасадах у БВА. У пач. Айч. вайны на фронце, камандзір дывізіі. Удзельнік Мінскага парт. падполля. З канца 1941 у партызанах, адзін з ініцыятараў стварэння і камандзір 208-га партыз. атрада (гл. *Партызанскі полк 208-ы імя І. В. Сталіна*). У крас.— вер. 1942 камандзір *Клічаўскага аператыўнага цэнтра*. У вер. 1942 адазваны ў Маскву і прызначаны нам. камандзіра 4-га гвардз. кав. корпуса. У 1943 арыштаваны. Рэабілітаваны ў 1952. У Пружанах яго імем названа вуліца, устаноўлена мемар. дошка.

**НОВАГАРАДО́ЦКІ БОЙ 1943**, бой паміж *партызанскім палком 425-м* і ням.-фаш. захопнікамі ў в. Новы Гарадок Быхаўскага р-на 14.12.1943.

1-ы батальён 278-га грэнадзёрскага палка 95-й ням. дывізіі (каля 200 гітлераўцаў, узброеных бронемашынай, мінамётнай батарэяй, арт. гарматай), які панёс вял. страты, быў размешчаны для пераформіравання ў в. Новы Гарадок.

У ноч на 14.12.1943 партызаны перайшлі ў наступленне, перакрыўшы ўсе падыходы да вёскі засадамі. 3-і батальён партызан атакаваў паўн. ўскраіну вёскі, дзе знаходзіўся штаб праціўніка, знішчыў яго, захапіў 2 палонных і штабныя дакументы, 2-і батальён заблакіраваў дамы ў цэнтры вёскі, дзе размяшчаўся асабовы склад гітлераўцаў, падпаліў гаражы з аўтамашынамі, склады., 1-ы партыз. батальён уварваўся ў вёску з Пд. Партызанам дапамагалі мясцовыя жыхары, якія ўказвалі дамы, дзе ўкрываліся фашысты. Праз 10 хвілін пасля штурму ўзвод партызан дэманстратыўнай атакай супраць найбольш шматлікага суседняга гарнізона ў в. Лубянка адцягнуў увагу праціўніка. У выніку бою ўвесь фаш. батальён быў поўнасцю знішчаны. Партызаны захапілі каля 80 адзінак стралк. зброі, боепрыпасы, усю амуніцыю і харчаванне батальёна. У гэтым баі партызаны страцілі 8 чал. забітымі і паранеными. *У. С. Пасэ.*

**НО́ВАЯ МЫШ**, вёска ў Баранавіцкім р-не, на р. Мышанка, за 8 км на ПнЗ ад г. Баранавічы, за 7 км ад чыг. ст. Баранавічы-Цэнтральныя, на аўтамагістралі Брэст — Масква, аўтадарогамі звязана з Баранавічамі, Слонімам, Лідай. У 1940—54 цэнтр Навамышскага р-на. 27.6.1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія забілі ў Н. М. і раёне 1803 чал. У райцэнтры і раёне дзейнічалі Навамышскія падп. райкомы КП(б)Б (ліп. 1943—6.7.1944) і ЛКСМБ (30.12. 1943—6.7.1944), партыз. брыгады імя Суворава, Першамайская, асобны партыз. атрад Дз. І. Семянцова (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«Перамога»*. Вызвалена 8.7.1944 воінамі 65-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе наступлення на баранавіцка-брэсцкім напрамку. У Н. М. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, на якой пастаўлены помнік. *Т. І. Паваліхіна.*

**НО́ВІКАЎ** Аляксандр Аляксандравіч (19.11.1900, в. Крукава Нерахцкага р-на Кастрамской вобл.— 3.12.1976), Гал. маршал авіяцыі (1944). Двойчы Герой Сав. Саюза (крас., вер. 1945) прафесар (1958). Чл. КПСС з 1920. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1930). У Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз., сав.-фінл. 1939—40 войнаў. З 1941 камандуючы ВПС Паўн. (са жн. 1941 Ленінградскага) фронту. У 1942—46 камандуючы ВПС Сав. Арміі, адначасова ў 1942—43 нам. нар. камісара абароны СССР па авіяцыі. Як прадстаўнік Стаўкі ВГК каардынаваў баявыя дзеянні авіяцыі ў Сталінградскай і Курскай бітвах, у аперацыях па вызваленню Паўн. Каўказа, Украіны, Беларусі, Прыбалтыкі, Польшчы, пры штурме Кёнігсберга, у Берлінскай аперацыі і пры разгроме японскай Квантунскай арміі. Пасля вайны на адказных пасадах у ВПС. Дэп. ВС СССР у 1946—50. Аўтар кн. «У небе Ленінграда» (1970).

**НО́ВІКАЎ** Мікалай Акімавіч (1910, с. Пазнякова Навашынскага р-на Горкаўскай вобл.— 4.2.1949), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1931. З 1927 на камсам. і прафс. рабоце ў Горкаўскай вобл., з 1937 на камсам. рабоце ў Слуцку, сакратар Віцебскага абкома ЛКСМБ, 1-ы сакратар Полацкага РК КП(б)Б. З вер. 1941 на фронце. У партызанах з мая 1942, у кастр. 1942— крас. 1943 камісар *партызанскай брыгады 3-й Беларускай*, адначасова ў жн. 1942— маі 1943 1-ы сакратар Полацкага падп. РК КП(б)Б. З 1944 у Полацку, 1-ы сакратар РК, сакратар гаркома, заг. аддзела абкома КП(б)Б.

**НО́ВІКАЎ** Піліп Сідаравіч (16.7.1896, в. Маркавічы Гомельскага р-на — 7.2.1969), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1920. Скончыў Маскоўскі ін-т нар. гаспадаркі (1933). З 1920 на гасп., сав. і парт. рабоце. У партызанах з чэрв. 1942: у жн. 1943— чэрв. 1944 кіраўнік *Круглянскай ваенна-аператыўнай групы*, адначасова ў сак. 1943— чэрв. 1944 сакратар Круглянскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—57 1-ы сакратар, сакратар Шклоўскага, 1-ы сакратар Крычаўскага РК КП(б)Б, старшыня Крычаўскага райвыканкома. Дэп. ВС БССР у 1947—51.

**НОВІКАЎ** Фама Фаміч (1913—16.7.1943), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсамольска-маладзёжнага падполля ў Лельчыцкім р-не. Да вайны працаваў настаўнікам. З 19.4.1943 сакратар Лельчыцкага падп. райкома ЛКСМБ. Загінуў у баі з ням.-фаш. акупантамі.

**НОВІКАЎ** Ціт Парфенавіч (31.3.1907, в. Салтанаўка Чачэрскага р-на — 5.3. 1974), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1941. У Чырв. Арміі з 1929. З крас. 1943 на Цэнтр., 1-м Укр. франтах: камандзір стралк. ўзвода, роты. Вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра. 27.9.1943 рота пад камандаваннем ст. лейтэнанта Н. пераправілася цераз раку на Пн ад Кіева, 28 вер. авалодала с. Яснагародка, другі раз фарсіравала Дняпро каля ст. Глебаўка, замацавалася ў в. Казаровічы і стварыла ўмовы для пераправы інш. падраздзяленняў. Да 1946 у Сав. Арміі, капітан. Да 1958 на гасп. рабоце.

**НОРДМАН** Эдуард Баляслававіч (н. 25.2.1922, г. Рэчыца), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсам.-маладзёжнага падполля і партыз. руху ў Пінскай вобл., ген.-маёр (1969). Чл. КПСС з 1943. Скончыў ВПШ пры ЦК КПСС (1958). З 1939 на камсам. рабоце. З 8.7.1941 нам. сакратара, з 1.1 да 3.6.1943 сакратар, потым чл. *Пінскага падпольнага абкома ЛКСМБ*, адначасова з 14.7.1941 да 1.7.1943 сакратар *Пінскага падпольнага гаркома ЛКСМБ*, у ліп. 1943— ліп. 1944 пам. камісара атрада В. З. Каржа, нам. камісара *партызанскай брыгады імя В. М. Молатава* па камсамолу. З 1944 на камсам., парт. і сав. рабоце, у органах дзярж. бяспекі. Дэп. ВС СССР у 1974—79. Ганаровы грамадзянін Пінска.

**«НЮРНБЕРГ»** («Nürnberg»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партыз. атрада «Спартак» (гл. *Партызанская брыгада «Спартак»*), часткова *партызанскай брыгады «Няўлоўныя»*, *партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава*, спецгруп ЦК КП(б) Літвы і Латвіі і мясцовага насельніцтва ў Браслаўскім, Пастаўскім і Шаркоўшчынскім р-нах (паміж азёрамі Богінскае і Дрывяты) 22—28.11.1942. Гэтай аперацыяй гітлераўцы намерваліся закончыць агульны план ліквідацыі партыз. руху на тэр. т. зв. генеральнай акругі «Беларусь».

Праводзілася сіламі 1-й матарызаванай брыгады СС, 14-га і 16-га паліцэйскіх і 75-га стралк. палкоў, матарызаваных узводаў жандармерыі і часцей вермахта. Ажыццяўлялася пад кіраўніцтвам нач. паліцыі бяспекі і СД «Остланд» обергрупенфюрэра СС Екельна і спец. ўпаўнаважанага рэйхсфюрэра СС Гімлера па барацьбе з партызанамі обергрупенфюрэра СС і генерала паліцыі Баха-Зелеўскага.

Карнікі не змаглі акружыць і знішчыць партызан, але загубілі каля 3 тыс. мясцовых грамадзян, захапілі жывёлу, разрабавалі маёмасць насельніцтва, спалілі больш за 30 вёсак, у т. л. Баравыя (загубілі 196 чал.), Плетарова (90), Прудзінкі (46), Стайкі (127) Браслаўскага р-на, Дунілавічы (829) Пастаўскага р-на, Бялкова (13), Вязовец (44), Журавоўшчына (11), *Ігнацэва*, Кушталі (48), Сцяпаніха (18), *Сялібка*, Строна (42), Сухаборац (29), Трабаўшчына (192 чал.) Шаркоўшчынскага р-на і інш.

*В. С. Лабезнікаў, У. С. Пасэ.*

**НЮРНБЕРГСКІ ПРАЦЭС**, судовы працэс над групай гал. нацысцкіх *ваенных злачынцаў*. Праводзіўся з 20.11.1945 да 1.10.1946 у Нюрнбергу (Германія) у Міжнар. ваен. трыбунале, створаным Лонданскім пагадненнем паміж СССР, ЗША, Вялікабрытаніяй і Францыяй ад 8.8.1945, да якога далучыліся яшчэ 19 дзяржаў. Ад СССР у яго ўвайшлі І. Ц. Нікітчанка і А. Ф. Валчкоў. Гал. абвінаваўцам ад СССР выступаў Р. А. Рудэнка, яго намеснікамі і памочнікамі былі Ю. В. Пакроўскі, Н. Д. Зора, М. Ю. Рагінскі, Л. М. Смірноў і Л. Р. Шэйнін. Пад суд былі аддадзены 24 ваен. злачынцы, якія ўваходзілі ў кіруючую кліку фаш. Германіі: Г. Герынг, Р. Гес, І. фон Рыбентроп, В. Кейтэль, Р. Лей, Э. Кальтэнбрунер, А. Розенберг, Г. Франк, В. Фрык, Ю. Штрэйхер, В. Функ, Г. Шахт, К. Дзёніц, Э. Рэдэр, Б. фон Шырах, Ф. Заўкель, А. Іодль, М. Борман, Ф. фон Папен, А. Зейс-Інкварт, А. Шпеер, К. фон Нейрат, Г. Фрычэ і Г. Круп. Бормана судзілі завочна. Лей, атрымаўшы копію абвінаваўчага акта, пакончыў з сабою ў турэмнай камеры. Круп быў прызнаны невылечна хворым, і справа аб ім была прыпынена, а ў далейшым спынена ў сувязі са смерцю. Нюрнбергскі працэс быў адкрыты.

Падсудныя карысталіся шырокімі магчымасцямі для абароны, мелі адвакатаў на свой выбар, абароне перадаваліся копіі доказных дакументаў на ням. мове, усе правы падсудных, прадугледжаныя Статутам Міжнар. ваен. трыбунала, былі строга захаваны. Ход Н. п. падрабязна асвятлялі акрэдытаваныя пры трыбунале 249 карэспандэнтаў газет, часопісаў, інш. сродкаў масавай інфармацыі.

Усяго адбылося 403 судовыя пасяджэнні, на якіх былі заслуханы паказанні падсудных (за выключэннем Геса і Фрыка), дапытана 116 сведак, разгледжана больш за 5 тыс. дакументальных доказаў, у т. л. аб злачынствах ням.-фаш. захопнікаў на тэр. Бел. ССР: паведамленні і акты *Надзвычайнай дзяржаўнай камісіі* аб злачынствах акупантаў у Мінску і Мінскай вобл., аб знішчэнні сав. людзей шляхам заражэння сыпным тыфам у 3 канцлагерах, размешчаных у Палескай вобл. (гл. *Азарыцкія лагеры смерці*), аб расстрэлах жыхароў у Гомелі, Пінску, Лідзе, знішчэнні дзяцей у Брэсцкай вобл. Як адзначалася ў прыгаворы трыбунала, абвінавачванне супраць падсудных грунтуецца ў большай ступені на дакументах, састаўленых імі самімі, аўтэнтычнасць якіх не аспрэчвалася. Віна гал. ваен. злачынцаў у змове супраць міру і чалавечнасці, ва ўчыненні найцяжэйшых ваен. злачынстваў была даказана. Трыбунал неабвержна даказаў таксама лжывасць сфабрыкаванай нацыстамі легенды аб «прэвентыўным» характары нападзення фаш. Германіі на СССР. Да пакарання

Ф. П. Нікіцін. А. А. Новікаў.



смерцю праз павешанне былі прыгавораны 12 падсудных: Герынг, Рыбентроп, Кейтэль, Розенберг, Франк, Фрык, Кальтэнбрунер, Штрэйхер, Іодль, Заўкель, Зейс-Інкварт і Борман (завочна), да пажыццёвага турэмнага зняволення — Гес, Функ і Рэдэр, да турэмнага зняволення на 20 гадоў — Шырах і Шпеер, на 15— Нейрат і на 10 — Дзёніц. Шахт, Папен і Фрычэ былі апраўданы. Чл. трыбунала ад СССР Нікітчанка заявіў асобную думку на прыгавор у частцы апраўдання Шахта, Папена і Фрычэ і аб прымяненні пажыццёвага турэмнага зняволення Гесу, лічачы, што першыя апраўданы беспадстаўна, а да Геса павінна быць прыменена пакаранне смерцю. Міжнар. ваен. трыбунал адначасова прызнаў злачыннымі дзярж. тайную паліцыю (гестапа) і службу бяспекі (СД), кіруючы састаў Нацыянал-сацыялісцкай партыі і яе ахоўныя атрады (СС). Асуджаныя да пакарання смерцю гал. ваен. злачынцы пасля адхілення Кантрольным саветам для Германіі хадайніцтваў аб памілаванні былі пакараны смерцю ў ноч на 16.10.1946. Целы іх і скончыўшага самагубствам за гадзіну да пакарання смерцю Герынга былі сфатаграфаваны і затым спалены, а прах развеяны па ветры. Так упершыню ў гісторыі былі пакараны арганізатары агрэсіўнай вайны, а агрэсія прызнана найцяжэйшым міжнар. злачынствам. Падрыхтоўка і правядзенне Н. п. сталі магчымымі дзякуючы сусв.-гіст. перамозе над германскім фашызмам, вядучую ролю ў якой сыграў Сав. Саюз, з'явіліся наглядным прыкладам паспяховага супрацоўніцтва 4 саюзных дзяржаў — чле-

25. Зак. 623.

наў антыгітлераўскай кааліцыі. Працэс мае вял. гіст. значэнне (яго называюць часам судом гісторыі). На ім былі выкрыты агрэсіўная і чалавеканенавісніцкая сутнасць фашызму, жудасныя злачынствы нацыстаў у акупіраваных краінах, устаноўлена вінаватасць гал. кіраўнікоў фаш. Германіі ў арганізацыі і ўчыненні

Ц. П. Новікаў. В. Л. Няклюдаў.



А. А. Нячаеў.



бяспрыкладных і найцяжэйшых злачынстваў супраць чалавецтва. Н. п. служыць справе міру, з'яўляецца грознай перасцярогай падпальшчыкам новай сусв. вайны. *І. І. Пацяружа.*

**НЯДЗВІГІН** Сямён Іванавіч (6.6. 1895, с. Сямёнаўскае Парэцкага р-на Чувашскай АССР — 9.3.1962), ген.-маёр. У Чырвонай Арміі з 1918. Удзельнік грамадзянскай, сав.-фінл. 1939—40 войнаў. З 22.6.1941 на Зах. фронце, камандзір 75-й стралк. дывізіі 4-й арміі. Часці дывізіі пад камандаваннем Н. вялі жорсткія баі з 22 да 27 чэрв. ў раёне г. п. Дамачова і на тэр. Маларыцкага р-на (каля г. п. *Маларыта*, в. Хаціслаў, Збураж, Олтуш, Макраны, Лукава і інш.), гераічна адбівалі націск 3 ням. дывізій, у т. л. танкавай, ням. 53-га армейскага корпуса, нанеслі праціўніку вял. страты ў жывой сіле і тэхніцы. Калі зрасходавалі ўсе боепрыпасы і гаручае, прарвалі кальцо акружэння і адышлі да Пінска, дзе 3 ліп. Н. аб'яднаў пад сваім камандаваннем таксама і часці, якія знаходзіліся ў гэтым раёне, і ўзначаліў (да 5 ліп.) абарону горада. Дывізія пад яго камандаваннем вяла баі ў ліп. 1941 у раёне Лунінца, у жн. 1941 — у раёне Мазыра. З 1943 нам. нач. ваенных курсаў «Выстрал», пасля вайны да 1956 працаваў у ДОСААФ у Саратаве. Яго імем названы вуліцы ў г. Маларыта і в. Хаціслаў Маларыцкага р-на.

**НЯКЛЮДАЎ** Валянцін Леанідавіч (30. 7. 1910, Омск — 20.5.1979), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай і Вілейскай абл. Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1940. Скончыў Новасібірскі камуніст. ун-т (1931). З 1933 у органах НКДБ. На фронце з кастр. 1941, удзельнік абароны Масквы. З лют. 1942 камісар, з жн. 1942 камандзір *партызанскага атрада «Баявы»*. У 1944—58 на адказных пасадах у органах МДБ БССР, МУС Малдаўскай ССР.

**НЯСВІЖ**, горад, цэнтр Нясвіжскага р-на, на р. Уша (прыток Нёмана). За 112 км на ПдЗ ад Мінска, за 14 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Мінск — Баранавічы, аўтадарогамі звязаны з Баранавічамі, Клецкам, Навагрудкам, Стоўбцамі, Слуцкам, Асіповічамі. 8,5 тыс. жыхароў у 1939. Акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі 28.6.1941. Гітлераўцы загубілі ў горадзе і раёне 10 тыс. чал., у т. л. ў Н. больш за 6 тыс. чал. Дзейнічалі Нясвіжскія падпольныя райкомы КП(б)Б (7.4. 1943—4.7.1944) і ЛКСМБ (1.11. 1943 — 5.7.1944), партыз. брыгады 27-я імя Чапаева, 300-я імя Варашылава, асобны партыз. атрад імя Жданава (гл. адпаведныя артыкулы). У 1943 у Н. дзейнічала падп. група. У ходзе *Мінскай аперацыі 1944* 2.7. 1944 воіны 128-га танк. палка 219-й танк. брыгады ў авангардзе 10-й гвардз. кав. дывізіі ў 4 гадз раніцы атакавалі ворага ў Н. і пад пагрозай акружэння вымусілі акупантаў адступіць. На досвітку 3 ліп. 2 батальёны праціўніка, узмоцненыя 40 танкамі, захапілі горад. 4 ліп. 30-ы кав. полк 9-й кав. дывізіі і 1815-ы самаходны арт. полк ачысцілі горад ад гітлераўцаў, але хутка праціўнік моцнай контратакай зноў захапіў Н. 4 ліп. ўвечары воіны 193-й стралк. дывізіі (ген.-маёр А. Р. Фралянкоў) 105-га стралк. корпуса 65-й арміі 1-га Бел. фронту ва ўзаемадзеянні з партызанамі 27-й брыгады імя Чапаева (камандзір М. А. Шастапалаў) і асобнага атрада імя Жданава (камандзір А. С. Самойленка) вызвалілі горад. У Н. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, на якой пастаўлены помнік і запалены Вечны агонь, магіла ахвяр фашызму, на якой пастаўлены помнік; помнік Вызвалення; мемар. знак на месцы расстрэлу 1500 жыхароў горада. *В. В. Гетаў.*

**НЯЧАЕЎ** Арсен Аляксеевіч (н. 10.12. 1910, в. Блеўчыцы Капыльскага р-на), Герой Сав. Саюза (1946). Чл. КПСС з 1944. Скончыў ваен. школу ў Пухавічах (1939). З 1941 на Волхаўскім, Ленінградскім, 1-м Прыбалт., 2-м і 1-м Бел. франтах, удзельнік прарыву блакады Ленінграда, вызвалення Пскоўскай вобл., Эстоніі, Латвіі, баёў на Усх. Прусіі. Камандзір гаўбічнай батарэі ст. лейтэнант Н. вызначыўся ў баях за Берлін. 24.4.1945 батарэя знішчыла 2 станковыя кулямёты, адбіла контратаку, захапіла квартал горада. У 1946—71 на сав., парт. і гасп. рабоце.



**ОБАЛЬСКАЕ КАМСАМОЛЬСКА-МАЛАДЗЁЖНАЕ ПАДПОЛЛЕ** («Юныя мсціўцы»). Дзейнічала з пач. 1942 да жн. 1943 у Сіроцінскім р-не. Створана па ініцыятыве Сіроцінскіх падп. РК КП(б)Б і РК ЛКСМБ з камсамольцаў і несаюзнай моладзі пас. Обаль, вёсак Ушалы, Зуі, Масцішча, Ферма. Аб'ядноўвала каля 40 чал., 3 групы: Обальскую, Масцішчанскую, Ушальскую. Узначальваў камсамольскі к-т з 9 чал.: Е. С. *Зянькова* (сакратар), Н. А. Азоліна, М. С. Дзяменцьева, У. І., І. В. і Я. Я. Езавітавы, М. П. Лузгіна, З. М. *Партнова*, В. М. Шашкова.

По заданню камандавання атрада імя Варашылава *партызанскай брыгады імя У. І. Леніна* і Сіроцінскага падп. РК ЛКСМБ падпольшчыкі здабывалі і перадавалі партызанам зброю, медыкаменты, звесткі разведкі аб размяшчэнні варожых войск, пра рух эшалонаў, забяспечвалі партыз. разведчыкаў дакументамі, рабілі дыверсіі на варожых аб'ектах, знішчалі акупантаў і іх тэхніку, вялі паліт. агітацыю сярод насельніцтва, распаўсюджвалі лістоўкі і зводкі Саўінфармбюро. Дзякуючы звесткам падпольшчыкаў, сав. самалёты знішчылі на чыг. ст. Обаль 4 эшалоны з танкамі. 19.8.1942 Н. А. Азоліна ўзарвала вадакачку на ст. Обаль, 11 воінскіх эшалонаў былі затрыманы на станцыі на некалькі дзён, У. І. Езавітаў узарваў легкавую аўтамашыну з афіцэрамі, Я. Я. Езавітаў — 3 матавозы і экскаватар. Летам 1943 М. П. Аляксееў падарваў цыстэрну на ст. Лоўжа: згарэлі эшалон з боепрыпасамі, будынак станцыі, прадуктовы склад. Усяго падпольшчыкі зрабілі 21 дыверсію: спалілі льнозавод, пілараму, электрастанцыю, некалькі мастоў і інш.

У 1942—43 гітлераўцы арыштавалі і пасля катаванняў расстралялі Н. А. Азоліну, М. П. Аляксеева, Н. М. Давыдаву, У. І. і Я. Я. Езавітавых, А. П., З. Дз. і М. П. Лузгіных, маці Е. С. Зяньковай Марфу Аляксандраўну, Ф. Ф. Слышанкова, Дз. С. і М. С. Хрыбценкаў. Пазней загінулі М. С. і Н. С. Дзяменцьевы, З. М. Партнова, В. М. Шашкова. Падпольшчыкі, якія пазбеглі арышту, уліліся ў партыз. брыгаду імя У. І. Леніна. Многія ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі, Е. С. Зяньковай і З. М. Партновай прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У г. п. Обаль на дамах, дзе жылі Е. С. Зянькова і З. М. Партнова, устаноўлены мемар.

дошкі. Пастаўлены помнікі: у гонар падп. камсамольскай арг-цыі, Е. С. Зяньковай, на магіле падпольшчыц А. П. і М. П. Лузгіных. У 1965 створаны *Музей Обальскага камсамольскага падполля.* Імем Е. С. Зяньковай названа вуліца ў Віцебску, імем З. М. Партновай — вуліцы ў Ленінградзе, Полацку, г. п. Обаль, многія піянерскія дружыны, цеплаход. *Р. А. Чарнаглазава.*

**ОРДЭНЫ СССР.** Права ўстанаўлення О. СССР і ўзнагароджання імі належыць Прэзідыуму ВС СССР. Да вайны былі ўстаноўлены ордэны Чырвонага Сцяга (1.8.1924), Працоўнага Чырвонага Сцяга (7.9.1928), Леніна (найвышэйшы ордэн СССР), Чырвонай Зоркі (абодва 6.4.1930), «Знак Пашаны» (25.11.1935, перайменаваны 22.8.1988 у ордэн Пашаны). У гады вайны ўстаноўлена 11 новых О. СССР. Першы з іх — ордэн Айч. вайны I і II ступеней (20.5.1942) для ўзнагароджання асоб, якія вызначыліся ў баях за Сав. Радзіму супраць ням.-фаш. захопнікаў. Для ўзнагароджання камандзіраў Чырв. Арміі за выдатныя заслугі ў арганізацыі і кіраўніцтве баявымі аперацыямі і дасягну-




1. Ордэн «Перамога». 2. Медаль «Залатая Зорка» Героя Савецкага Саюза. 3. Залаты медаль «Серп і Молат» Героя Сацыялістычнай Працы. 4. Ордэн Леніна. 5. Ордэн Чырвонага Сцяга. 6. Ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга. 7. Ордэн «Знак Пашаны». 8. Ордэн Славы I ступені. 9. Ордэн Славы II ступені. 10. Ордэн Славы III ступені.

тыя пры гэтым поспехі ўстаноўлены ваен. ордэны — Суворава I, II і III ступеней, Кутузава I і II ступеней, Аляксандра Неўскага (усе 29.7.1942), Кутузава III ступені (8.2.1943). Для ўзнагароджання афіцэраў, салдат і матросаў, вайсковых часцей і злучэнняў, кіраўнікоў партыз. атрадаў і партызан, якія асабліва вызначыліся ў баях з ням.-фаш. захопнікамі, устаноўлены ордэн Багдана Хмяльніцкага I, II і III ступеней (10.10. 1943). Для ўзнагароджання асоб вышэйшага каманднага саставу Чырв. Арміі за паспяховае правядзенне ба-



1. Ордэн Суворава I ступені. 2. Ордэн Ушакова I ступені. 3. Ордэн Кутузава I ступені. 4. Ордэн Нахімава I ступені. 5. Ордэн Багдана Хмяльніцкага I ступені. 6. Ордэн Суворава II ступені. 7. Ордэн Ушакова II ступені. 8. Ордэн Кутузава II ступені. 9. Ордэн Нахімава II ступені. 10. Ордэн Багдана Хмяльніцкага II ступені. 11. Ордэн Суворава III ступені. 12. Ордэн Кутузава III ступені. 13. Ордэн Багдана Хмяльніцкага III ступені. 14. Ордэн Аляксандра Неўскага. 15. Ордэн Айчыннай вайны I ступені. 16. Ордэн Айчыннай вайны II ступені. 17. Ордэн Чырвонай Зоркі.

явых аперацый у маштабе аднаго або некалькіх франтоў, у выніку якіх карэнным чынам мянялася становішча на карысць Чырв. Арміі, устаноўлены вышэйшы ваен. ордэн «Перамога» (8.11.1943). За гады вайны ордэна «Перамога» былі ўдастоены сав. военачальнікі (у парадку ўзнагароджання): Г. К. *Жукаў*, А. М. *Васілеўскі*, І. В. *Сталін* (усе двойчы), К. К. *Ракасоўскі*, І. С. Конеў, Р. Я. Маліноўскі, Ф. І. Талбухін, Л. А. Говараў, С. К. *Цімашэнка*, А. І. *Антонаў*, К. А. Мерацкоў. Для ўзнагароджання радавых і сяржантаў, а ў авіяцыі мал. лейтэнантаў, што здзейснілі слаўныя подзвігі храбрасці, мужнасці і бясстрашнасці на палях баёў, устаноўлены ордэн Славы 3 ступеней (8.11.1943), узнагароджанне якім ажыццяўлялася паслядоўна: III, II і I ступеней. Асоба, удастоеная ордэна ўсіх 3 ступеней, стала называцца *кавалерам ордэна Славы трох ступеней.* Для ўзнагароджання афіцэраў ВМФ за выдатныя поспехі ў распрацоўцы і ажыццяўленні марскіх аперацый, у выніку якіх была дасягнута перамога над колькасна пераважаючым ворагам, і за інш. асобыя баявыя заслугі ўстаноўлены ордэны Ушакова і Нахімава (3.3.1944, абодва I і II ступеней). У мэтах падняцця ролі жанчын у выхаванні дзяцей і ўмацаванні сям'і ў цяжкіх умовах вайны быў устаноўлены ордэн «Маці-гераіня» (8.7.1944), які ўручаўся з прысваеннем звання «Маці-гераіня» жанчынам, што нарадзілі і выхавалі 10 дзяцей. Адначасова ўстаноўлены ордэн «Мацярынская слава» 3 ступеней для ўзнагароджання жанчын, якія нарадзілі і выхавалі: 7 дзяцей — ордэн III ступені, 8 — II, 9 — I. За гераічныя подзвігі ў гады вайны ўрадавыя ўзнагароды атрымалі больш за 7 млн. сав. воінаў. Ім было ўручана каля 14 млн. ордэнаў і *медалёў* СССР. О. СССР уручаліся не толькі асобам, але і вайсковым часцям, злучэнням. Многія з іх узнаг. двойчы, тройчы. 29 часцей і злучэнняў удастоены 5 і больш ордэнаў. За вызваленне Беларусі ад ням.-фаш. захопнікаў О. СССР было ўзнаг. каля 400 вайсковых часцей і злучэнняў. З ліст. 1942 сав. военачальнікам, камандуючым арміямі, камандзірам карпусоў, дывізій, брыгад і ім адпаведным давалася права ўзнагароджання ад імя Прэзідыума ВС СССР воінаў, якія вызначыліся на фронце барацьбы з ням.-фаш. захопнікамі з далейшым зацвярджэннем узнагароджання Прэзідыумам ВС СССР. За подзвігі і заслугі ў гады вайны праводзіцца ўзнагароджанне О. СССР, устаноўленымі пасля яе заканчэння: Кастрычніцкай Рэвалюцыі (31.10.1967), Дружбы народаў (17.12.1972), «За службу Радзіме ва Узброеных Сілах СССР» I, II і III ступеней (28.10.1974).

Правілы нашэння ордэнаў і медалёў СССР зацверджаны Указам Прэзідыума ВС СССР ад 28.3.1980. На левым баку грудзей носяць ордэны Леніна, Кастрычніцкай Рэвалюцыі, Чырвонага Сцяга, Працоўнага Чырвонага Сцяга, Дружбы народаў, Пашаны, Славы I, II, і III ступеней, «Маці-гераіня», «Мацярынская слава» I, II і III ступеней, ніжэй гэтых ордэнаў, але на 12—14 см вышэй пояса — «Перамога», на правым баку грудзей — Суворава, Ушакова, Кутузава, Нахімава, Багдана Хмяльніцкага I ступені, пасля іх у той жа паслядоўнасці тыя ж ордэны II ступені, Суворава, Кутузава, Багдана Хмяльніцкага III ступені, Аляксандра Неўскага, Айчыннай вайны I і II ступеней, Чырвонай Зоркі, «За службу Радзіме в Узброеных Сілах» I, II і III ступеней. Ордэны замежных краін носяць ніжэй О. СССР. Вышэй ордэнаў і медалёў СССР могуць размяшчацца толькі тыя знакі, якія ўстаноўлены Прэзідыумам ВС СССР паводле іх статутаў. Незаконнае нашэнне ордэнаў і медалёў, ператварэнне іх у прадметы абмену, куплі, продажу і калекцыяніравання расцэньваецца як здзек над свяшчэннымі сімваламі сацыяліст. Айчыны і караецца ў адм. і крымінальным парадку. Асоба, якая зрабіла праступак, што ганьбіць яе як узнагароджанага ордэнам або медалём, можа быць пазбаўлена іх Прэзідыумам ВС СССР. О. СССР нябожчыкаў або пасмяротна ўзнагароджаных пакідаюцца ці перадаюцца іх сем'ям для зберагання як памяць, а таксама са згоды наследнікаў могуць быць перададзены музеям для экспанавання і захоўвання.

Паводле Пастановы Прэзідыума ВС СССР ад 22.8.1988 да ўзнагароджання ордэнамі Леніна і Кастрычніцкай Рэвалюцыі за працоўныя заслугі могуць быць прадстаўлены, як правіла, асобы, адзначаныя раней інш. ордэнам. Не дапускаецца паўторнае прадстаўленне да ўзнагароджання ордэнам Леніна, за выключэннем выпадкаў, калі асобы, якія вызначыліся, удастойваюцца звання Героя Сав. Саюза або Героя Сацыяліст. Працы. Не праводзіцца таксама паўторнае прадстаўленне да ўзнагароджання ордэнам Кастрычніцкай Рэвалюцыі. Узнагароджанне іншымі аднайменнымі О. паўторна, акрамя ордэнаў, якія маюць ступені, ажыццяўляецца ў выключных выпадках. Наступнае прадстаўленне да ўзнагароджання О. магчыма, як правіла, не раней як праз 5 гадоў пасля папярэдняга ўзнагароджання дзяржаўнай узнагародай СССР. За мужнасць і адвагу, праяўленыя пры выкананні грамадзянскага і воінскага абавязку, грамадзяне СССР могуць прадстаўляцца да наступнага ўзнагароджання незалежна ад часу папярэдняга ўзнагароджання. Пастановай устаноўлены ордэн «За асабістую мужнасць», перайменаваны ордэн «Знак Пашаны» ў ордэн Пашаны. Кандыдатуры для ўзнагароджання О. СССР разглядаюцца на сходзе працоўнага калектыву або яго саветам. *А. С. Харэбін.*

**ÓРША,** горад, цэнтр Аршанскага р-на, на р. Днепр пры ўпадзенні ў яго р. Аршыца за 80 км на Пд ад Віцебска. Вузел чыгунак і аўтамаб. дарог. 37,6 тыс. жыхароў у 1939. З першых дзён вайны аказаўся ў зоне ваен. дзеянняў. Улічваючы важнае стратэгічнае значэнне О. на гэтым напрамку, гітлераўскае камандаванне сканцэнтравала вял. сілы сваіх войск, ням. авіяцыя часта рабіла налёты на горад, асабліва сістэматычна бамбіла чыг. вузел, каб перашкодзіць эвакуацыі прадпрыемстваў, устаноў, насельніцтва на ўсход краіны. Вакол горада вялося вял. абарончае будаўніцтва, быў сфарміраваны знішчальны батальён (больш за 1200 чал.) 12—13.7. 1941 жорсткія баі пад О. вялі войскі 18-й (палк. П. К. Жывалёў) і 73-й (палк. А. І. Акімаў) стралк. дывізій 20-й арміі Зах. фронту. Пры набліжэнні ням.-фаш. войск з раёна чыг. ст. Орша 14.7.1941 упершыню быў дадзены залп батарэі сав. рэактыўных установак («кацюш»), падраздзяленнем якіх камандаваў капітан І. А. *Флёраў.* 16.7.1941 горад акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы стварылі ў О. некалькі канцлагераў для сав. ваеннапалонных і насельніцтва, у якіх знішчылі 19 тыс. чал., у горадзе і раёне акупанты загубілі 37,4 тыс. сав. грамадзян. З ліп. 1941 у горадзе і раёне пачалі дзейнічаць *Аршанскае партыйна-камсамольскае падполле,* Аршанскія падп. райкомы КП(б)Б (19.6. 1943—28.6.1944) і ЛКСМБ (20.11. 1942—28.6.1944), партыз. брыгады Багушэўская, «Звязда», «Чэкіст», 115-я Горацкая, 1-я і 2-я імя Заслонава, 16-я Смаленская, імя А. Ф. Данукалава, асобныя партыз. атрады 5-ы, 10, 20, 112-ы Горацкі, «Першыя» (гл. адпаведныя артыкулы). Горад вызвалялі ў ходзе *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944* 27.6.1944 воіны 84-й (ген.-маёр Г. Б. Петэрс) і 16-й (ген.-маёр Я. В. Рыжыкаў) гвардз. стралк. дывізій 36-га гвардз. стралк. корпуса, 4-й (палк. А. А. Лосік), 25-й (палк. С. М. Булыгін) і 26-й (палк. С. К. Несцераў) гвардз. танк. брыгад, 4-й гвардз. матастралк. брыгады (падпалк. М. С. Анціпін) 2-га гвардз. танк. корпуса, 35-га асобнага гвардз. цяжкога танк. палка (палк. І. І. Лушпа), 63-га асобнага гвардз. танк. палка прарыву (палк. І. М. Дагіліс), 345-га (падпалк. В. І. Конанцаў) і 348-га (падпалк. А. І. Міронаў) гвардз. цяжкіх самаходных арт. палкоў, 34-й лёгкай (палк. Дз. М. Гнатышын), 53-й гарматнай (палк. І. Дз. Новадранаў), 60-й гаўбічнай (палк. С. М. Пятроў), 93-й цяжкой гаўбічнай (падпалк. В. М. Несцяровіч) і 102-й гаўбічнай вял. магутнасці (падпалк. В. Р. Паўлікаў) арт. брыгад 20-й арт. дывізіі прарыву, 1-й гвардз. знішчальна-процітанк. арт. брыгады (палк. П. І. Піліпенка) 11-й гвардз. арміі, 88-й (палк. Ф. Т. Каўтуноў), 192-й (палк. А. М. Кавалеўскі), 173-й (палк. С. Я. Клімахін) і 331-й (ген.-маёр П. П. Берастаў) стралк. дывізіі 71-га стралк. корпуса, 220-й (палк. В. А. Палявік) і 352-й (ген.-маёр М. М. Стрыжэнка) стралк. дывізіі 36-га стралк. корпуса, 213-й танк. брыгады (палк. А. В. Цынчанка), 926-га (палк. А. М. Хухрын) і 1445-га (падпалк. І. Дз. Фядотаў) самаходных арт. палкоў, 14-й гвардз. гарматнай арт.

брыгады (палк. М. Н. Хасін) 4-й цяжкой гарматнай арт. дывізіі, 140-й армейскай гарматнай арт. брыгады (палк. С. Ф. Фядотаў), 43-й знішчальна-процітанк. брыгады (палк. І. І. Кій), 31-й інж.-сапёрнай брыгады (палк. М. Э. Праневіч) 31-й арміі пры падтрымцы 1-й паветр. арміі (ген.-лейт. авіяцыі М. М. Громаў) і авіяцыі дальняга дзеяння (ген.-маёр


М. Б. Осіпава. К. Н. Осіпаў.

авіяцыі А. Я. Галаванаў) 3-га Бел. фронту сумесна з партызанамі. 41 вайсковай часці і злучэнню нададзены ганаровыя найменні «Аршанскіх» (гл. *Аршанскія вайсковыя злучэнні і часці*). На дзень вызвалення ў О. было каля 3 тыс. жыхароў, горад быў ператвораны ў руіны. Акупанты знішчылі ўсе прамысловыя прадпрыемствы, 75 % жыллёвага фонду, на чыг. вузле поўнасцю разбурана станцыйная гаспадарка, гораду нанесены страты ў 580,9 млн. руб. У О. брацкія магілы сав. воінаў і партызан, падпольшчыкаў, ахвяр фашызму і ваеннапалонных, магіла К. С. *Заслонава* і яго ад'ютанта Я. В. Коржаня, на якой пастаўлены помнік Заслонаву, помнік Вызвалення ў гонар. сав. воінаў і партызан, якія вызвалялі О., мемарыяльны комплекс «Кацюша». У 1966 у О. закладзены мемар. парк гераяў на ўшанаванне памяці сав. воінаў, партызан і падпольшчыкаў, жыхароў О. і Аршанскага р-на, якія загінулі ў гады вайны. У О. працуе *Аршанскі мемарыяльны музей Героя Савецкага Саюза К. С. Заслонава.* У 1984 О. ўзнагароджана ордэнам Айч. вайны I ступені.

*Н. У. Капранава.*

**ОСІПАВА** Марыя Барысаўна (н. 27.12. 1908, в. Сярковіцы Талачынскага р-на), удзельніца Мінскага партыйнага падполля і партыз. руху на тэр. Мінскай вобл. Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1928. Скончыла Вышэйшую камуніст. с.-г. школу Беларусі (1935), Мінскі юрыдычны ін-т (1940). З 1926 на сав. і парт. рабоце. У ліп. 1941 арганізавала з б. выкладчыкаў і студэнтаў юрыдычнага ін-та падп. групу ў Мінску. Прымала ўдзел у рабоце падп. камсамольскай арганізацыі на заводзе «Бальшавік». Распаўсюджвала выданні Мінскага падп. гаркома КП(б)Б, у т. л. газ. *«Звязда»*, арганізоўвала ратаванне сав. ваеннапалонных і адпраўку іх у партыз. атрады, а таксама дастаўку партызанам зброі і боепрыпасаў. Сувязная партыз. атрадаў М. М. Нікіціна, «Дзіма», «Мясцовыя» і партыз. брыгады «Дзядзькі Колі». Адна з арганізатараў аперацыі па знішчэнню палача бел. народа ген. камісара Беларусі В. *Кубэ*. У 1945—59 на сав. рабоце. Дэп. ВС БССР у 1947—63. Ганаровы грамадзянін Мінска. Яе імем названа вуліца ў г. Давыд-Гарадок.

**ОСІПАЎ** Кірыл Нічыпаравіч (15.2. 1907, в. Збароў Рагачоўскага р-на — 16.8.1975), Герой Сав. Саюза (1941). Чл. КПСС з 1931. У Чырв. Арміі з 1929. Скончыў арт. вучылішча (1935), Вышэйшую афіцэрскую арт. школу (1947). Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. На фронце з чэрв. 1941, сакратар партбюро арт. палка, ст. палітрук. У складзе групы войск на чале з ген.-лейт. І. В. *Болдзіным* з баямі прабіваўся з акружэння на тэр.Беларусі. У жн. 1941 перайшоў лінію фронту, наладзіў сувязь з камандуючым 19-й арміяй І. С. *Коневым*, удзельнічаў у распрацоўцы і ажыццяўленні плана прарыву фронту для злучэння групы з Чырв. Арміяй. У 1942—43 у штабе партыз. руху пры Ваен. савеце Зах. фронту. Удзельнік вызвалення Беларусі, баёў ва Усх. Прусіі, супраць імперыялістычнай Японіі на Далёкім Усходзе. Да 1965 у Сав. Арміі, палкоўнік. У 1961—74 на грамадскай рабоце. Яго імем названа вуліца ў Гомелі.

**ОСІПАЎ** Яўген Гаўрылавіч (н. 23.12. 1913, Масква), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Беластоцкай вобл. Чл. КПСС з 1940. З 1938 рабочы. У партызанах з вер. 1941: камісар, камандзір спец. атрада, у распараджэнні БШПР, з сак 1943 нач. штаба атрада, у ліст. 1943 — жн. 1944 камісар *партызанскай брыгады імя Кастуся Каліноўскага,* адначасова ў крас.— жн. 1944 сакратар Беластоцкага падп. РК КП(б)Б. Да 1975 на парт. і гасп. рабоце.

**«ОСТ»,** генеральны план «ОСТ», нямецка-фашысцкі план каланізацыі і германізацыі Усх. Еўропы. Заснаваны на расавай чалавеканенавісніцкай тэорыі, узведзенай герм. імперыялізмам у ранг дзярж. палітыкі. Распрацаваны ў Імперскім упраўленні дзярж. бяспекі. Першы варыянт «О.», аб існаванні якога ведала строга абмежаванае кола асоб, распрацаваны пад кіраўніцтвам рэйхсфюрэра СС Гімлера і датычаў у асноўным тэр. Польшчы. Пасля нападу гітлераўскай Германіі на СССР былі распрацаваны асн. фундаментальныя палажэнні і прынцыпы каланізатарскай палітыкі нацыстаў на акупіраванай тэр. СССР.

Пасля вайны доўгі час «О.» не маглі знайсці, меліся толькі перапіска, каментарыі і заўвагі розных ведамстваў і нацысцкіх вярхоў, якія датычалі плана. У 1970-х пры інвентарызацыі ням. ваен. дакументаў у Нацыянальным архіве ЗША быў выяўлены генеральны план «Ост». На 84 старонках выкладзены працэс паэтапнай каланізацыі і германізацыі, масавага вынішчэння народаў усх. дзяржаў, якія падлягалі захопу, план ліквідацыі Польшчы і Сав. Саюза. Першапачаткова намячалася да выхаду 1942 «высяленне» 31 млн. чал., потым паступіла ўдакладненне — знішчыць 46—51 млн. чал. (80—85 % палякаў, 75 % беларусаў, 65 % зах. украінцаў, 50 % літоўцаў, латышоў, эстонцаў), у далейшым прадугледжвалася пашырыць першапачатковыя «прыкідкі» на тэр. «да самага Урала». Па плану «О.» на працягу 25—30 гадоў прадугледжвалася знішчыць 120—140 млн. чал. у Польшчы і СССР, «паэтапна, з улікам палітычных і эканамічных момантаў» поўнасцю знішчыць рус. народ. Каланізацыі і поўнай германізацыі падлягалі Беларусь, Літва, Латвія, Эстонія, Інгерманландыя (Ленінградская і Пскоўская вобл.), Готэнгаў (Крым і Херсонская вобл., б. Таўрыя). Былі падрыхтаваны новыя назвы гарадам, напр., Ленінград планавалі перайменаваць у Адольфсбург, Севастопаль — у Готэнсбург, Сімферопаль — у Тэадорыхсбург і г. д. Гімлер, выступаючы перад вышэйшымі чынамі СС і паліцыі 16.9.1942 у сваёй палявой стаўцы «Хегевальд» каля Жытоміра, заявіў: «Мы павінны германізаваць і засяліць Беларусь, Эстонію, Латвію, Літву, Інгерманландыю і Крым». У пісьме ад 12.1. 1943 да аднаго з аўтараў «О.» ён сцвярджаў: «Упамянутыя вобласці павінны быць татальна германізаваны, г. зн. заселены». З пач. вайны гітлераўцы прымалі актыўныя меры для ажыццяўлення сваіх злавесных замыслаў. У паведамленні СД з Мінска ў Берлін (сак. 1942) гаварылася: «У зоне Мінскага камісарыята — мелася на ўвазе тэрыторыя т. зв. генеральнай акругі «Беларусь» — жыве каля 15 000 асоб нямецкага паходжання. Ёсць намер высяліць рускія сёлы і пасяліць туды асоб нямецкага паходжання, каб стварыць замкнёныя нямецкія пасяленні». Мясцовае насельніцтва падлягала знішчэнню або ператварэнню ў рабоў ням. каланістаў. План «О.» дапаўнялі іншыя сакрэтныя дакументы, якія з'яўляліся яго састаўной часткай. На карце германскай каланізацыі Беларусі і Прыбалтыкі, датаванай 17.11.1942, прыведзена запланаваная колькасць мясцовага насельніцтва і ням. каланістаў у найбольш буйных апорных цэнтрах. У Мінску планавалася пасяліць 50 тыс. немцаў і часова пакінуць для выкарыстання ў якасці рабочай сілы 100 тыс. мясцовых жыхароў, у Гомелі адпаведна 30 тыс. і 50 тыс., у Магілёве — 20 тыс. і 50 тыс., у Віцебску — 20 тыс. і 40 тыс., у Полацку — 10 тыс. і 25 тыс., Гродне — 10 тыс. і 20 тыс., Баранавічах — 10 тыс. і 20 тыс., Барысаве — 5 тыс. і 15 тыс., Навагрудку — 5 тыс. і 15 тыс. і г. д. Паводле фаш. плана пасляваен. ўпарадкавання ў Мінску прадугледжвалася будаўніцтва казарм для эсэсаўцаў, будынкаў ваен.-фаш. кіраўніцтва, жандармерыі і інш. карных органаў, турмы, крэматорыя з пляцоўкай для расстрэлаў і спец. пад'язнымі чыг. пуцямі. У 1942 намячалася ўзвядзенне 3 гіганцкіх лагераў

смерці ў Рызе, Кіеве і Бабруйску. Ліквідацыя сав. народа паводле намераў гітлераўцаў павінна была праводзіцца з выкарыстаннем разнастайных спосабаў і метадаў, прымяненнем самага шырокага арсеналу сродкаў масавага знішчэння. Восенню 1941 на Беларусі і інш. часова акупіраваных тэр. СССР фашысты пачалі механізаваць тэхналогію масавых забойстваў з выкарыстаннем спецыяльна абсталяваных машын — «душагубак». Адным з асн. прыёмаў і спосабаў ажыццяўлення нацысцкай палітыкі генацыду з'яўлялася масавае знішчэнне населеных пунктаў разам з жыхарамі. На Беларусі з 9200 вёсак і сёл, спаленых гітлераўцамі, больш за 5290 знішчаны разам з усім насельніцтвам або значнай яго часткай. За гады акупацыі фашысты загубілі на Беларусі больш за 2,2 млн. сав. грамадзян, каля 380 тыс. вывезлі на катаргу ў Германію (гл. таксама *Генацыд, Акупацыйны рэжым, Карныя аперацыі, Лагеры смерці*). Усенародная барацьба сав. народа супраць ням.-фаш. акупантаў, разгром і крах гітлераўскай Германіі перашкодзілі захопнікам ажыццявіць каварны план «О.».
*В. П. Рамаоўскі.*

**«ÓСТЛАНД»** (Рэйхскамісарыят Остланд), адміністрацыйна-тэр. адзінка, устаноўленая ў 1941 ням.-фаш. акупантамі на захопленай імі тэр. СССР. Адміністрацыйны цэнтр «О.» — Каўнас (да жн. 1941), Рыга (да восені 1944), Берлін (да мая 1945). Да восені 1944 «О.» узначальваў Г. Лозе, пазней рэйхкамісар «Украіны» Э. Кох. «О.» складаўся з 4 генеральных акруг: Беларусь, Латвія, Літва і Эстонія. Межы акруг не заўсёды супадалі з межамі сав. рэспублік. Напр., да генеральнай акругі Літвы акупанты далучылі паўн.-зах. раёны Вілейскай вобл., генеральная акруга «Беларусь», якую ўзначальваў гаўляйтэр В. Кубэ (22.9.1943 знішчаны мінскімі падпольшчыкамі), потым фон Готберг, складала толькі 1/3 тэр. БССР (гл. ў арт. *Акупацыйны рэжым*). З 1.4.1944 генеральная акруга «Беларусь» была падпарадкавана міністру ўсх. зямель А. Розенбергу.

**«ÓТА»** («Otto»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партызан і мясцовага насельніцтва, якія выйшлі з-пад ударaў карнікаў у ліст. 1943 у ходзе адбіцця аперацыі *«Генрых»*, у Дрысенскім і Асвейскім р-нах 20.12.1943 — 1.1. 1944.

Праводзілася баявымі групамі Екельна і Готберга. Мэта аперацыі — знішчыць партыз. сілы на тэр. паміж г. Дрыса і г. Себеж, наладзіць бесперашкоднае забеспячэнне правага фланга групы армій «Поўнач» па дарогах Дрыса — Себеж і Полацк — Себеж. 20 снеж. з Себежа, Ідрыцы і Шкяўне на Пн, Даўгаўпілса на З і Полацка на Пд праціўнік пачаў наступленне супраць партыз. абароны, якая праходзіла па правым беразе р. Нішча да яе ўпадзення ў р. Дрыса, а потым па Дрысе і далей на Пн уздоўж дарогі Дзёрнавічы — Задзежжа і па р. Свольна. Гітлераўцы вялі наступленне шырокім фронтам 3 эшалонамі, маючы на кожным участку фронту, у кожным баі многаразовую перавагу ў жывой сіле і ўзбраенні. 24 снеж. праціўніку ўдалося адцясніць партызан да апошняй лініі іх абароны, да лагераў у раёне в. Роўнае Поле (Расонскі р-н), дзе сканцэнтраваліся штабы ўсіх брыгад, перапоўненыя параненымі шпіталі, тысячы жанчын, старых і дзяцей. На пасяджэнні Асвейскага і Дрысенскага падп. райкомаў партыі сумесна з камандзірамі і камісарамі брыгад было прынята рашэнне ў ноч на 28 снеж. прарваць блакаду і вывесці жыхароў і параненых праз лінію фронту ў сав. тыл.

З мэтаю адцягнення сіл праціўніка і прарыву лініі фронту, якая праходзіла па рубяжы ст. Дрэтунь — воз. Нешчарда — г. Пустошка, былі створаны 2 ударныя групы. Адну ў складзе *партызанскай брыгады Асвейскай імя М. В. Фрунзе, партызанскай брыгады 1-й Дрысенскай, партызанскай брыгады 2-й Дрысенскай* і Латышскага партыз. атрада ўзначаліў сакратар Асвейскага падп. РК КП(б)Б І. К. *Захараў*, другую ў складзе 1-й, 7, 11, 12, 20-й Калінінскіх брыгад — камандзір 1-й Калінінскай брыгады В. М. Лісоўскі. 26 снеж. партызаны схавалі цяжкое ўзбраенне, і 1-я ўдарная група нанесла рашаючы ўдар па карніках каля в. Канюхова паміж в. Клясціцы і в. Сакалішча. Зламаўшы апошні эшалон абароны праціўніка, калона людзей, што расцягнулася амаль на кіламетр, па ўмёрзлым у лёд сплаўным лесе перайшла цераз р. Нішча. 30 снеж. каля 10 тыс. жыхароў пад прыкрыццём партызан пераправіліся цераз р. Дрыса і ўвайшлі ў размяшчэнне часцей Чырв. Арміі. Другой ударнай групе прарыў у раёне в. Клясціцы — в. Юхавічы не ўдаўся, і яна з часткаю мясцовых жыхароў, якія ішлі з ёю, пасля 2-дзённых баёў адышла ў лясы на Пн і З ад в. Роўнае Поле, частка насельніцтва выйшла за лінію фронту па маршруце першай ударнай групы. У ходзе аперацыі «О.» гітлераўцы толькі па даных баявой групы Готберга расстралялі каля 2 тыс. чал., захапілі для вывазу на фаш. катаргу больш за 500 чал., спалілі в. Барысава (загублена 76 чал.), Кісялі (113), Кашалёва (37), Мельніца, Стралкі (122), Ярмоліна (39 чал.) і інш. У 1974 у в. Канюхова Расонскага р-на пастаўлены помнік партызанам і мясцовым жыхарам, якія загінулі пры прарыве блакады.
*У. С. Пасэ.*



**ПАГАРЫ́**, вёска на тэр. Полацкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 7 км на ПдУ ад в. Домнікі Гаранскага сельсавета. Перад вайной у ёй жылі 24 чал. У студз. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 24 жыхароў, вёску (19 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**ПАДАЛЁЦ** Дзмітрый Паўлавіч (21.10. 1902, в. Марынцы Чашніцкага р-на — 18.3.1967), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1928. З 1926 рабочы, на парт. і сав. рабоце. У партызанах з чэрв. 1942: камісар атрада, у кастр. 1942 — снеж. 1943 *партызанскай брыгады «За Савецкую Беларусь»*, адначасова чл. Бешанковіцкага падп. РК КП(б)Б. З снеж. 1943 у распараджэнні БШПР. Пасля вайны на сав., парт., адм.-гасп. рабоце.

**ПАДАЛЯ́Н** Фядот Пракопавіч (17.7. 1909, в. Русо-Крыклівец Крыжопальскага р-на Вінніцкай вобл.— 4.1. 1971), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1938. Скончыў Магілёўскі пед. ін-т (1956). З 1931 у Чырв. Арміі. У партызанах, з крас. 1942: радавы, камандзір узвода, роты, атрада, у крас.— ліп. 1943 камандзір *партызанскай брыгады 11-й Быхаўскай*, у ліп.— ліст. 1943 — *Быхаўскай ваенна-аператыўнай групы*, адначасова чл., у ліст. 1943 — лют. 1944 сакратар Быхаўскага падп. РК КП(б)Б. З 1944 на парт. і сав. рабоце. Яго імем названа вуліца ў г. Быхаў.

**ПАДДАВА́ШКІН** Аляксандр Васілевіч (25.9.1919, ст. Карпава Адэскай вобл.— 23.1.1976), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1945. Беларус. Скончыў Палтаўскае танк. вучылішча (1943), Вышэйшую афіцэрскую браня-танк. школу (1947). З 1941 на Паўд.-Зах., Паўд., Паўн.-Каўказскім, 1-м і 2-м Укр., 1-м Бел. франтах. Камандзір танк. роты лейтэнант П. вызначыўся ў Берлінскай аперацыі. 24.4. 1945 каля г. Бернау рота на чале з П. разграміла варожы апорны пункт, знішчыла 3 дзоты, каля 180 гітлераўцаў, у баях за г. Патсдам знішчыла 40 кулямётных кропак, 8 дзотаў, каля 300 гітлераўцаў. Да 1967 у Сав. Арміі, падпалкоўнік.

**ПАДЗАРО́ДНЯ**, вёска на тэр. Віцебскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1 км на Пд ад в. Храпакі Запольскага сельсавета. Перад вайной у ёй жылі 82 чал. У ліп. 1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 21 жыхара, вёску (19 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**ПАДРА́НДА**, вёска на тэр. Гарадоцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на Пд ад в. Обаль Халамерскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыў 201 чал. У ліст. 1942, у час карнай аперацыі, фа-

шысты загубілі 70 жыхароў, вёску (35 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**ПАДРЭ́ЗАЎШЧЫНА,** вёска на тэр. Шаркоўшчынскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на Пд ад в. Свілы Ёдскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 10 чал. 22.11.1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 10 жыхароў, вёску (2 двары) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*


А. В. Паддавашкін. М. Г. Падсаднік. У. Б. Пазнякоў. Г. Ф. Пакроўскі. М. П. Пакроўскі. Г. А. Палаўчэня.

**ПАДСА́ДНІК** Мікалай Георгіевіч (1.1. 1922, в. Вуглы Полацкага р-на — 24.11.1975), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1945. Скончыў Арэнбургскую школу пілотаў (1942), Маскоўскую вышэйшую школу прафруху ВЦСПС (1959). З кастр. 1943 на Варонежскім, 1-м, 2-м і 3-м Укр. франтах. Удзельнік вызвалення Украіны, Малдавіі, Румыніі, Югаславіі, Венгрыі. Камандзір звяна лётчык-штурмавік лейтэнант П. зрабіў 106 баявых вылетаў на разведку, штурмоўку і бамбардзіроўку жывой сілы і тэхнікі ворага. Пасля вайны на парт., прафс. і адм. рабоце.

**ПАЗНЯ́К** Вадзім Нічыпаравіч (н. 14.2. 1920, в. Слабодка Бешанковіцкага р-на), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсам.-маладзёжнага падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1944. Засл. дзеяч культуры БССР (1966). Скончыў ВПШ пры ЦК ВКП(б) (1948). З чэрв. 1942 адказны арганізатар камсам. работы па Аршанскай зоне, член, з 1.12.1943 да 26.6.1944 сакратар *Віцебскага падпольнага абкома ЛКСМБ.* З 1944 сакратар Віцебскага, 1-ы сакратар Мінскага абкомаў, сакратар ЦК ЛКСМБ, нам. загадчыка аддзела, кіраўнік лектарскай групы ЦК КПБ, 1-ы нам. старшыні праўлення таварыства «Веды» БССР. У 1971—85 нач. Гал. ўпраўлення БССР па замежным турызме.

**ПАЗНЯКО́Ў** Іван Барысавіч (н. 1.7. 1902, в. Хутаранка Гомельскага р-на), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1927. Скончыў Вышэйшую школу парт. арганізатараў пры ЦК ВКП(б) (1940). З 1931 на парт. рабоце. З 1940 1-ы сакратар Гродзенскага гаркома КП(б)Б. У Айч. вайну на Зах., Цэнтр., Бранскім і Калінінскім франтах. З 1.11.1942 да ліп. 1944 сакратар *Віцебскага падпольнага абкома КП(б)Б.* З 1944 сакратар Віцебскага абкома, з 1945 1-ы сакратар Аршанскага, Віцебскага гаркома КПБ. У 1960—71 у апараце ЦК КПБ. Чл. ЦК КПБ у 1940—60. Дэп. ВС БССР у 1940—63. Аўтар кн. «Без лініі фронту» (разам з Я. А. Жылянiным, В. І. Лузгіным, 2 выд., 1979).

**ПАКРО́ЎСКІ** Георгій Фёдаравіч (н. 15.1.1915, Сімферопаль), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1942. У Чырв. Арміі з 1936. Скончыў Ваен. акадэміі імя Фрунзе (1948) і Генштаба (1955). У Айч. вайну нач. штаба стралк. палка, з ліст. 1942 камандзір партыз. брыгады ў Арлоўскай вобл., камандзір партыз. злучэння ў Кіеўскай вобл., у ЦШПР, у лют.— ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага.* У 1948—64 у Гал. упраўленні баявой і фізічнай падрыхтоўкі Сухапутных войск Сав. Арміі, Ваен. акадэміі Генштаба, Групе сав. войск у Германіі. З 1965 у Міністэрстве знешняга гандлю СССР.

**ПАКРО́ЎСКІ** Мікалай Пракопавіч (19. 5.1909, с. Сарагожскае Ляснога р-на Калінінскай вобл.— 4.8.1976), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1931. Вучыўся ў Мінскім пед. ін-це (1937—39). З 1932 на камсам. і парт. рабоце. У жн. 1941 арганізаваў і ўзначаліў партыз. атрад «Беларусь», у сак.— чэрв. 1943 камандзір *партызанскай брыгады «Беларусь».* У ліп. 1941 — чэрв. 1943 сакратар Рудзенскага падп. РК КП(б)Б, у ліст. 1942 — чэрв. 1943 чл. *Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б.* Пасля вайны 1-ы сакратар Барысаўскага гаркома, Баранавіцкага абкома КП(б)Б, у апараце ЦК КП(б)Б, СМ БССР. Чл. ЦК КПБ у 1949—52. Дэп. ВС БССР у 1947—55.

**ПАЛАВІ́НКА** Віктар Паўлавіч (19.12. 1906, г. Пачэп Бранскай вобл.— 16.12.1977), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Гомельскай вобл. Герой Сацыяліст. Працы (1958). Чл. КПСС з 1937. У 1930—42 на гасп., камсам., сав. і парт. рабоце. У вер. 1942 — чэрв. 1943 камісар *партызанскай брыгады Рэчыцкай імя К. Я. Варашылава,* у ліст. 1942 — ліст. 1943 сакратар Рэчыцкага падп. РК КП(б)Б. У 1943—52 1-ы сакратар Рэчыцкага, з 1953 Гомельскага РК КПБ, з 1960 у Гомельскім абкоме КПБ, у 1963—67 нам. старшыні Гомельскага аблвыканкома. Званне Героя прысвоена за поспехі ў развіцці сельскай гаспадаркі. Канд. у чл. ЦК КПБ у 1954—56, чл. ЦК КПБ у 1956—61. Дэп. ВС БССР у 1951—63.

**ПАЛАЖЭ́НЦАЎ** Фёдар Іванавіч (май 1900, с. Гарадзішча Савецкага р-на Курскай вобл.— 21.9.1979), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Пінскай вобл. Чл. КПСС з 1928. Скончыў Вышэйшую школу парт. арганізатараў пры ЦК ВКП(б) (1940). У 1932—39 на парт. і сав. рабоце на Украіне. З 1940 заг. аддзела Пінскага абкома КП(б)Б. З ліп. 1941 на падп. парт. рабоце ў тыле ворага, з 23.4.1943 да 30.3.1944 чл. *Пінскага падпольнага абкома КП(б)Б,* адначасова з 1.9.1943 сакратар *Пінскага падпольнага гаркома КП(б)Б.* У 1944—54 на парт., сав. і гасп. рабоце.

**ПАЛАЎЧЭ́НЯ** Гаўрыіл Антонавіч (н. 1.5.1907, в. Ляскі Ст険дарожскага р-на), Герой Сав. Саюза (1942). Чл. КПСС з 1939. Скончыў Ваен. акадэмію бранятанк. і механіз. войск (1944), Харкаўскі с.-г. ін-т (1956). У Чырв. Арміі з 1929. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну з чэрв. 1941 на Зах., Калінінскім франтах. Нам. камандзіра танк. батальёна капітан П. вызначыўся ў баях у Калінінскай вобл. 15.1.1942 каля

в. Лугі пад г. Андрэапаль танк П. праравўся на 12 км у варожы тыл, знішчыў 12 гармат, 6 агнявых кропак і каля 450 гітлераўцаў; 16.1.1942 падтрымаў наступленне стралк. палка, вызваляў г. Андрэапаль, Таропец. Да 1953 у Сав. Арміі, падпалкоўнік. Да 1980 працаваў ў МТС, на суднабудаўнічым з-дзе. Яго імем названа вуліца ў в. Языль Старадарожскага р-на.

**ПАЛЕ́СКАЕ ПАРТЫЗА́НСКАЕ ЗЛУЧЭ́ННЕ.** Створана 15.3.1943 на падставе ўказання ЦК КП(б)Б і загада БШПР у выніку раздзялення партыз. злучэння Мінскай і Палескай абл. (гл. ў арт. *Мінскае партызанскае злучэнне*). Пры фарміраванні ў П. п. з. ўвайшлі: партыз. брыгады 123-я Акцябрская, 125-я Капаткевіцкая і асобныя партыз. атрады: Даманавіцкі, Ельскі, Калінкавіцкі, імя Варашылава, Нараўлянскі, М. П. *Бумажкова*, А. П. Пакуша, У. Ц. Шантара, П. Я. Ігуменава, Р. І. Краўца, І. Б. Бабіча агульнай колькасцю 2935 партызан, створаны штаб злучэння партыз. атрадаў.

Камандзіры: Ф. М. *Языковіч* [адначасова ўпаўнаважаны ЦК КП(б)Б і сакратар Палескага падп. абкома КП(б)Б; сак.— крас. 1943, загінуў], К. М. Бакун (крас.— вер. 1943, в. а.), І. Дз. *Вятроў* [адначасова ўпаўнаважаны ЦК КП(б)Б і 1-ы сакратар Палескага падп. абкома КП(б)Б; вер. 1943 — сак. 1944], І. В. Скалабан (сак.— крас. 1944, в. а., загінуў), Р. М. Дарожка (крас.— ліп. 1944, в. а.). Нач. штаба: Бакун (сак.— крас. 1943), Дарожка (крас. 1943 — крас. 1944), А. І. Неўскі (крас.— ліп. 1944). Яднала 16 брыгад: 2-ю Калінкавіцкую імя Фрунзе, 27-ю Нараўлянскую імя Кірава, 37-ю Ельскую, Васілевіцкую імя Панамарэнкі, 50-ю Жыткавіцкую, 99-ю Калінкавіцкую, 100-ю Глускую, 101-ю Даманавіцкую, 123-ю Акцябрскую імя 25-годдзя БССР, 125-ю Капаткевіцкую, 130-ю Петрыкаўскую, 225-ю, Лельчыцкую, Мазырскую імя Аляксандра Неўскага, 210-ю Капаткевіцкую, 150-ю імя Языковіча (з канца 1943 у Брэсцкім партыз. злучэнні; пра кожную брыгаду гл. адпаведны артыкул), 13 асобна дзейных атрадаў: І. С. Губіна, А. Ф. Сарафанава, імя Варашылава, імя Катоўскага, імя Суворава, імя Чапаева, Парыцкі імя Кірава, Тураўскі «За Радзіму», штабы Калінкавіцкі імя Варашылава, Даманавіцкі, Васілевіцкі імя Панамарэнкі, Ельскі; дзейнічала каля 5 тыс. падпольшчыкаў і сувязных. Дзеянні партызан у Ельскім, Лельчыцкім, Мазырскім, Нараўлянскім і Тураўскім р-нах каардынавала створанае ў маі 1943 *Паўднёва-Прыпяцкае партызанскае злучэнне*. Злучэнне партыз. фарміраванняў з часцямі Чырв. Арміі праходзіла па меры вызвалення Палескай вобл. з 22.9.1943 да 6.7.1944. На дзень выхаду ў сав. тыл у П. п. з. каля 9 тыс. чал. Акрамя таго, на тэр. Палескай вобл. ў розны час дзейнічала (але не ўваходзіла ў склад П. п. з.) 14 асобных партыз. атрадаў. Партызанам Ц. П. *Бумажкову*, Ф. І. *Паўлоўскаму*, Р. А. *Такуеву* і Ф. А. *Малышаву* прысвоена званне Героя Сав. Саюза. *І. Дз. Вятроў.*

**«ПАЛЕ́СКАЯ ПРА́ЎДА»,** газета, заснавана ў 1939. У час ням.-фаш. акупацыі орган *Пінскага падпольнага абкома КП(б)Б*. Вядома 57 нумароў за 8.6.1943—8.7.1944 на бел. мове. Рэдактар М. А. Эрдман. Пасля вызвалення выдавалася да 1954 пад той жа назвай, орган Пінскіх абкома і гаркома КПБ, абл. і гар. Саветаў дэп. працоўных.

**ПАЛЕ́СКІ ПАДПО́ЛЬНЫ АБКО́М КП(б)Б.** Створаны *Цэнтральным Камітэтам КП(б)Б* і працаваў пад яго кіраўніцтвам з 9.2.1943 да ліп. 1944. Дзейнічаў на тэр. Палескай вобл. Узначальваў *Калінкавіцкі падпольны гарком КП(б)Б* і 17 падп. райкомаў [гл. *Раённыя падпольныя камітэты КП(б)Б*], якія аб'ядноўвалі 117 пярвічных парт. арг-цый, 1549 камуністаў у партыз. фарміраваннях. 12 райкомаў выдавалі газеты (гл. *Друк падпольны*). Накіроўваў дзейнасць *Палескага падпольнага абкома ЛКСМБ*, *Палескага партызанскага злучэння*, Брагінскага, Васілевіцкага, Ельскага, Жыткавіцкага, Калінкавіцкага, Мазырскага, Петрыкаўскага, Тураўскага, Хойніцкага парт. і камсам. падполля (гл. адпаведныя артыкулы), антыфаш. груп славацкіх і венгерскіх салдат у Хойніках, Мазыры, Нароўлі і ням. салдат у Калінкавічах, Ельску, Лельчыцах, Мазыры. Сакратары абкома: Ф. М. *Языковіч* (да 7.4.1943, загінуў), І. Дз. *Вятроў* (з 7.8.1943, 1-ы сакратар), М. І. *Малінін* (4.8.1943 — лют. 1944, 2-і сакратар); члены А. Ц. *Міхайлоўскі* (з 2.4.1943), Ф. І. *Паўлоўскі* (2. 4.1943— май 1944), М. Л. *Пінязік* (2.4 — кастр. 1943), Я. А. *Татараў* (2.4— 4.8.1943), К. М. Бакун (5—28.10. 1943), І. В. *Скалабан* (5.10.1943 — крас. 1944, загінуў), Р. І. Слепаў (5.10.1943 — люты 1944). Друкаваны орган — газ. *«Бальшавік Палесся»*; выдаваў лістоўкі (каля 40 назваў), бюлетэні, адозвы, зводкі Саўінфармбюро. Кіраваў агітацыйна-масавай работай сярод насельніцтва і прапагандай сярод салдат варожых фарміраванняў. У 1943 праз *«Рудабельскія «вароты»* наладзіў прамыя зносіны паміж партызанамі і часцямі Чырв. Арміі. Базіраваўся на тэр. Капаткевіцкага і Акцябрскага р-наў (вёскі Камаровічы, Філатаўка, Чырвоная Слабада і інш.).

23.7.1941 Палескі абком партыі (1-ы сакратар П. А. *Лявіцкі*) зацвердзіў абл. тройку па кіраўніцтву падп. парт. ячэйкамі і партыз. рухам, састаў раённых троек і камандаванне партыз. атрадаў. На акупіраванай ворагам тэр. вобласці засталіся і ўзначалілі баявыя дзеянні партыз. атрадаў Ельскі, Петрыкаўскі і Хойніцкі райкомы КП(б)Б, сакратары Жыткавіцкага, Мазырскага, Нараўлянскага і Тураўскага райкомаў партыі. З вясны 1942 партыз. рух у Палескай вобл. стаў шырыцца. Для далейшага развіцця партыз. руху і кіраўніцтва работай падп. парт. органаў у Палескай вобл. ЦК КП(б)Б у лют. 1943 накіраваў у вобласць сакратара Палескага абкома КП(б)Б Языковіча ў якасці ўпаўнаважанага ЦК КП(б)Б па гэтай вобл. Памочнікамі ўпаўнаважанага былі зацверджаны Пінязік, Слепаў, Татараў.

У гонар падп. абкома КП(б)Б і штаба партыз. злучэння Палескай вобл. ў в. Камаровічы Петрыкаўскага р-на ў 1983 устаноўлена мемар. дошка. *А. В. Сямёнава.*

**ПАЛЕ́СКІ ПАДПО́ЛЬНЫ АБКО́М ЛКСМБ.** Створаны *Цэнтральным Камітэтам ЛКСМБ*. Дзейнічаў з 9.2.1942 да 6.7. 1944 пад кіраўніцтвам *Палескага падпольнага абкома КП(б)Б* і ЦК ЛКСМБ. Узначальваў дзейнасць 16 падп. райкомаў (гл. ў арт. *Раённыя падпольныя камітэты ЛКСМБ)*, 59 тэрытарыяльных падп. арг-цый, 193 пярвічныя арг-цыі ў партыз. фарміраваннях, якія аб'ядноўвалі 2416 камсамольцаў. Сакратары абкома: М. Л. *Пінязік* (да 27.5.1944, 1-ы сакратар, чл. ЦК ЛКСМБ), У. Г. *Козыр* (з 1.10. 1943), Ф. І. *Самбук* (з 2.8.1943); члены: Козыр, У. К. Рудак (да 1.1. 1944), Ф. А. Плавінскі (з 3.6.1943), Самбук (з 3.6.1943), У. Ф. Ткач (8.8.1943—5.3.1944);лектар абкома М. С. Палазнік (8.8.1943 — 10.1. 1944). Асн. база знаходзілася ў Акцябрскім р-не.

Да стварэння падп. абкома камсам. работу ў Палескай вобл. ўзначальваў сакратар ЦК ЛКСМБ К. Т. *Мазураў*. Пад яго кіраўніцтвам працавалі інструктары ЦК ЛКСМБ Рудак, Н. А. Карповіч, Н. І. Сіманаў, упаўнаважаныя ЦК, сувязныя. *Р. М. Шавяла.*

**ПАЛТАРЖЫ́ЦКІ** Браніслаў Іосіфавіч (30.12.1894, г. Нясвіж — 17.4.1969), ген.-лейтэнант (1946). Чл. КПСС з 1943. У арміі з 1913, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны, потым у войсках БВА, Маскоўскай ваен. акругі, выкладчык курсаў «Выстрал». У Айч. вайну з 1943 на Паўн.-Зах., Сцяпным, Варонежскім, 1-м Укр. і 1-м Бел. франтах, камандзір дывізіі, нам. камандзіра корпуса. У 1944—57 у Войску Польскім.

**ПАЛЫ́НІН** Фёдар Пятровіч (20.10. 1906, с. Сухі Астрог Балаклаўскага р-на Саратаўскай вобл.— 21.11. 1981), Герой Сав. Саюза (1938), ген.-палк. авіяцыі (1946). Чл. КПСС з 1929. Скончыў Аб'яднаную і Арэнбургскую школы лётчыкаў (1929, 1931), курсы ўдасканалення начсаставу пры Ваен.-паветр. акадэміі (1935), Ваен. акадэмію Генштаба (1955). Вызначыўся ў баях супраць японскіх захопнікаў у Кітаі (1937—38). Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. З жн. 1941 камандуючы ВПС Бранскага фронту, нам. камандуючага 2-й і 6-й паветр. армій, з 1943 камандуючы 6-й паветр. арміі, якая ў складзе 1-га Бел. фронту ўдзельнічала ў вызваленні Беларусі. Удзельнік *Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944*. Варшаўска-Познанскай 1945 і Берлінскай 1945 аперацый. У 1944—47 камандаваў ВПС Войска Польскага. З 1947 на

камандных пасадах у ВПС, у 1959—71 нач. тылу ВПС Сав. Арміі.

**«ПАЛЯВА́ННЕ НА ЗАЙЦО́Ў»** («Hasenjagd»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партыз. фарміраванняў *Шклоўскай ваенна-аператыўнай групы, Круглянскай ваенна-аператыўнай групы* і мясцовага насельніцтва ў Бялыніцкім,



С. А. Панамароў. П. К. Панамарэнка.

Круглянскім і Шклоўскім р-нах 14—15.10.1943.

Праводзілася сіламі 2 баявых груп (3 батальёны, 5 пях. рот, танк. рота, 2 кав. эскадроны, ягдкаманда, штаб ахоўнага палка, сапёрны ўзвод). Тэр. паміж чыг. Лепель — Орша і шашой Мінск — Магілёў да кастр. 1943 стала аператыўным тылам 4-й ням.-фаш. арміі, адкінутай да Дняпра Чырв. Арміяй у ходзе *Смаленскай аперацыі 1943*. У пачатку кастр. 1943 камандаванне арміі загадала штабу ахоўы тылу «асвоіць» раён Орша — Талачын — Бялынічы — Магілёў і забяспечыць бесперапынны рух па ўсіх унутраных камунікацыях у мэтах фарсіравання будаўніцтва абарончага рубяжа «Дора». У раён тылу 4-й арміі было ўведзена 22 пях. і ахоўныя батальёны, 3 батальёны СС і 2 батальёны гал. ўпраўлення будаўніцтва ўмацаванага раёна. Раён «асваення» з боку лініі фронту быў блакіраваны 10 ахоўнымі батальёнамі, 3 арт. батарэямі і танк. ротай.

Гітлераўцам удалося адцясніць партызан ад дарогі Коханава — Стараселле, аднавіць буйныя гарнізоны ў в. Стараселле і Кувечына. Але гэтыя вынікі не вычарпалі пастаўленых камандаваннем задач, і штаб ахоўы тылу 4-й арміі аддаў загад на карную аперацыю *«Паляванне на качак»*.

*У. С. Пасэ.*

**«ПАЛЯВА́ННЕ НА КА́ЧАК»** («Entenjagd»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партызан і мясцовага насельніцтва ў Бялыніцкім, Круглянскім і Шклоўскім р-нах 16—19.10.1943.

Праводзілася сіламі, выведзенымі з аперацыі *«Паляванне на зайцоў»*, узмоцненымі батальёнамі 638-га і 350-га палкоў, арт. групай і інш. з мэтай «уціхамірвання» раёна ад Талачына да Круглага. Задума аперацыі заключалася ў тым, каб намнога большымі сіламі на ПнУ ад в. Галоўчын (Бялыніцкі р-н) ствaрыць «кацёл» і ўдарамі з 4 напрамкаў пры падтрымцы авіяцыі і артылерыі знішчыць партызан. Аднак гэтая аперацыя, як і аперацыя «Паляванне на зайцоў», не мела поспеху. Партызаны выйшлі з «катла» на флангі і ў тылы карнікаў, працягваючы наносіць удары па камунікацыях 4-й арміі гітлераўцаў. 19 кастр. акупанты, захапіўшы каля 300 мясцовых грамадзян для выкарыстання на будаўніцтве ўмацаванняў і вывазу ў Германію, абрабаваўшы вёскі, пачалі адыход з раёна аперацыі. Фаш. камандаванне вымушана было часова адмовіцца ад правядзення буйнамаштабных карных аперацый. У 2-й пал. кастр. гітлераўцы правялі ў раёне ахоўы тылу 4-й арміі 418 патрульных акцый, 183 засады на партызан, 64 аперацыі па размініраванню дарог і, як і раней, былі вымушаны пастаянна выкарыстоўваць 106 ахоўных каманд для суправаджэння транспартаў.

*У. С. Пасэ.*

**ПАЛЯКО́Ў** Іван Яўцеевіч (н. 25.11.1914, Гомель), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсам.-маладзёжнага падполля і партыз. руху ў Гомельскай вобл., дзярж. і парт. дзеяч БССР. Герой Сацыяліст. Працы (1973). Чл. КПСС з 1940. Скончыў ВПШ пры ЦК ВКП(б) (1949). З ліст. 1942 у тыле ворага, сакратар *Гомельскага падпольнага абкома ЛКСМБ*, у жн.— ліст. 1943 камісар *партызанскай брыгады 1-й Гомельскай*. З 1944 на камсам. і парт. рабоце. У 1956 старшыня Гомельскага аблвыканкома, з 1957 1-ы сакратар Гомельскага абкома КПБ. З снеж. 1964 1-ы сакратар Мінскага абкома КПБ. У 1977—85 Старшыня Прэзідыума ВС БССР, адначасова да 1985 нам. Старшыні Прэзідыума ВС СССР. Канд. у чл. ЦК КПСС у 1961—66, чл. ЦК КПСС у 1966—85. Чл. ЦК КПБ з 1952, чл. Прэзідыума ЦК КПБ у 1965—1966, чл. Бюро ЦК КПБ у 1966—85. Дэп. ВС СССР у 1958—89, ВС БССР у 1951—59, з 1977.

**ПАНАМАРО́Ў** Аркадзь Мікалаевіч (1.5.1912, в. Інгулка Мікалаеўскага р-на Мікалаеўскай вобл.—28.12.1974), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Вілейскай вобл. Чл. КПСС з 1938. Скончыў Мінскі пед. ін-т (1958). З 1933 на камсам. і парт. рабоце, у Чырв. Арміі. З чэрв. 1941 на фронце. У партызанах з мая 1942: палітрук узвода, з жн. 1942 камісар, камандзір атрада, у ліп. 1943 — ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады «Спартак»*, адначасова з вер. 1943 сакратар Відзаўскага падп. РК КП(б)Б. Пасля вайны на сав., гасп. і пед. рабоце. Яго імем названа вуліца ў в. Дзераўная Стаўбцоўскага р-на.

**ПАНАМАРО́Ў** Сяргей Аляксеевіч (31.12.1908, в. Мікалаеўка Буда-Кашалёўскага р-на — 17.10.1968), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1942. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. З чэрв. 1941 на Зах., Паўн.-Зах., Бранскім, Бел., 1-м Укр., 3-м і 1-м Прыбалт., 1-м Бел. франтах. Ад'ютант старшы стралк. батальёна капітан П. вызначыўся ў баях у час прарыву варожай абароны ў Польшчы і ўступлення сав. войск на тэр. Германіі. Распрацаваў план бою, забяспечыў пры наступленні сувязь батальёна з інш. падраздзяленнямі. Да 1946 у Сав. Арміі, маёр. Пазней працаваў у леспрамгасе ў Рагачоўскім р-не.

**ПАНАМАРЭ́НКА** Панцеляймон Кандратавіч (9.8.1902, хутар Шалкоўскі Беларэчанскага р-на Краснадарскага краю — 18.1.1984), савецкі парт. і дзярж. дзеяч, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Айч. вайну, ген.-лейтэнант (1943). Чл. КПСС з 1925. Скончыў Маскоўскі ін-т інж. чыг. транспарту (1932). З 1937 у апараце ЦК ВКП(б). У 1938—47 1-ы сакратар ЦК КП(б)Б, адначасова ў гады вайны нач. *Цэнтральнага штаба партызанскага руху*, чл. ваен. саветаў Зах., Цэнтр., Бранскага, 1-га Бел. франтоў. У 1944— вер. 1948 Старшыня СНК (з 1946 СМ) БССР. У 1948—53 сакратар ЦК ВКП(б), адначасова ў 1950—53 міністр нарыхтовак СССР. З 1953 міністр культуры СССР, 1-ы сакратар ЦК КП Казахстана. У 1955—65 на дыпламатычнай рабоце, да 1978 выкладчык у Ін-це грамадскіх навук пры ЦК КПСС. Чл. ЦК КПСС у 1939—61. Чл. Прэзідыума ЦК КПСС з 1952, канд. у чл. Прэзідыума ЦК КПСС у 1953—56. Чл. ЦК КП(б)Б у 1938—49. Чл. Бюро ЦК КП(б)Б у 1938—48. Дэп. ВС СССР у 1940—58, ВС БССР у 1938—51. Даследчык гісторыі партыз. руху і падп. барацьбы ў Айч. вайну. Аўтар кніг «Партызанскі рух у Вялікай Айчыннай вайне» (1943), «Усенародная барацьба ў тыле нямецка-фашысцкіх захопнікаў, 1941—1944» (1986) і інш. Яго імем названы вуліцы ў Мінску і Магілёве, з-д у Гомелі.

**ПАНКЕ́ВІЧ** Ігнат Ігнатавіч (25.3.1905, Смаленск — 16.2.1971), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1932. Скончыў Мінскі пед. ін-т. З 1926 на камсам., пед. і парт. рабоце. З вер. 1941 у Чырв. Арміі. З чэрв. 1942 у партызанах: камісар атрада, у снеж. 1942— чэрв. 1943 *партызанскай брыгады імя С. М. Кірава*, у чэрв. 1943— чэрв. 1944 камісар атрада. Пасля вайны на выкладчыцкай рабоце.

**ПАНКО́ВА** Софія Сяргееўна (27.9.1902, в. Міхаліна Бераставіцкага р-на — 4.12.1942), дзеяч рэв. руху ў Зах. Беларусі, удзельніца *Віцебскага партыйна-камсамольскага падполля*, паплечніца В. З. *Харужай*. Чл. КПСС з 1919. Скончыла Маскоўскі пед. ін-т (1926). З 1926 на падп. рабоце ў Зах. Беларусі. За рэвалюцыйную дзейнасць неаднаразова была арыштавана польск. бурж. уладамі, зняволена ў турму ў 1928—32, 1935—39. З вер. 1939 узначальвала Беластоцкі гарком МОПРа.

Увосень 1942 у складзе групы на чале з Харужай накіравана з Масквы ў акупіраваны Віцебск, арганізоўвала работу парт. падполля. 13.11.1942 арыштавана. Загублена ням. фашыстамі. Яе імем названы вуліцы ў Віцебску, Ваўкавыску, Пінску; у Ваўкавыску ўстаноўлена мемар. дошка.

**ПАНО́Ў** Міхаіл Фёдаравіч (21.11.1901, в. Аўчыннікава Невельскага р-на Пскоўскай вобл. — 10.5.1979), Герой Сав. Саюза (1945), ген.-лейт. танк. войск (1945). Чл. КПСС з 1919. У Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію механізацыі і матарызацыі (1938), Вышэйшыя акадэмічныя курсы пры Ваен. акадэміі Генштаба (1952). З 1941 на Зах., Сталінградскім, Паўд., Бранскім, Бел., 1-м і 2-м Бел. франтах — камандзір танк. дывізіі, нам. камандуючага арміяй, камандзір 1-га гвардз. танк. корпуса. Удзельнік Гомельска-Рэчыцкай, Калінкавіцка-Мазырскай, Бел. аперацый, вызвалення Бабруйска, Мінска. Да 1967 на адказных пасадах у Сав. Арміі. Чл. ЦК КПБ у 1956—59. Дэп. ВС БССР у 1951—59. Ганаровы грамадзянін г. Калінкавічы і г. Мар'іна Горка.

**«ПАНТЭ́РА»** («Panther») № 32, кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партызан і мясцовага насельніцтва ў Расонскім р-не ў жн. 1942. Праводзілася сіламі 2 батальёнаў 201-й ахоўнай дывізіі з мэтай знішчэння расонскай групы партыз. атрадаў (гл. *Партызанская брыгада Расонская імя І. В. Сталіна*). Аднак знішчыць або рассеяць партызан і ўстанавіць кантроль над тэр. Расонскага р-на гітлераўцам не ўдалося. У раёне аперацыі карнікі расстралялі каля 100 мясцовых жыхароў, захапілі 475 галоў жывёлы. Аперацыя «П.» была шостай за лета 1942 праваленай спробай 201-й ахоўнай дывізіі «ўціхамірыць» насельніцтва Расонскага р-на.

**ПАНЦЯЛЕ́ЕНКА** Мікалай Канстанцінавіч (н. 22.5.1912, Магілёў), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1940. З 1930 на пед. рабоце ў Краснапольскім і Бягомльскім р-нах, у Саратаўскай вобл. У партызанах з чэрв. 1942: камісар атрада, у сак.— вер. 1943 камісар *партызанскай брыгады 99-й імя Дз. Ц. Гуляева*, з вер. нач. асобага аддзела партыз. брыгады 25-й імя П. К. Панамарэнкі. У 1944—80 на парт., адм.-гасп. і пед. рабоце.

**ПА́ПАРТНАЕ**, вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 5 км на ПдЗ ад в. Гісялёва Сенькаўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 59 чалавек. У лют. 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»*, фашысты загубілі 34 жыхароў, вёску (13 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1982 на месцы вёскі насыпаны курган, пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь*.

**ПАПІ́ВІН** Мікалай Піліпавіч (14.12. 1903, г. Клін Маскоўскай вобл.— 19.4.1963), ген.-палк. авіяцыі (1944), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1919. У Чырв. Арміі з 1920. Скончыў ваен. школу лётчыкаў (1929), курсы ўдасканалення начсаставу пры Ваен.-паветр. акадэміі імя Жукоўскага (1933), Вышэйшыя акадэм. курсы пры Ваен. акадэміі Генштаба (1952). У Айч. вайну на Ленінградскім, Калінінскім, 1-м Прыбалт. і 3-м Бел. франтах. Камандзір штурмавой авіядывізіі, нам. камандуючага, камандуючы (з мая 1943) 3-й паветр. арміяй, якая ажыццяўляла актыўную падтрымку войск у ходзе *Гарадоцкай аперацыі 1943, Полацкай аперацыі 1944*, выконвала задачы па забеспячэнню баявых дзеянняў партызан; удзельнічала ў вызваленні Прыбалтыкі. Да 1961 на камандных пасадах у ВПС.

**ПАПКО́ВІЧ** Пётр Фёдаравіч (5.4.1887, Брэст — 3.4.1946), сав. вучоны-караблебудаўнік, інжынер-контр-адмірал (1940), чл.-карэспандэнт АН СССР (1938), доктар тэхн. навук (1935), засл. дзеяч навукі і тэхнікі РСФСР (1944). Скончыў караблебуд. аддзяленне Пецярбургскага політэхн. ін-та (1911). У сав. ВМФ з 1918. Рознабаковыя інж. дзейнасць П. звязана са шматлікімі галінамі развіцця тэхнікі і ўзбраення сав. ВМФ. У 1934—40 прафесар Ленінградскага караблебудаўнічага ін-та, з 1934 — Ваенна-марской акадэміі. Асн. працы па будаўніцтву і механіцы карабля, тэорыі пругкасці. Дзярж. прэмія СССР 1946.

**ПАПКО́ЎСКІ** Леанід Аляксандравіч (1.4.1913, в. Кульнёва Расонскага р-на — 19.6.1988), адзін з кіраўнікоў *Сакалішчанскага партыйна-камсамольскага падполля.* Скончыў 2-е Ленінградскае арт. вучылішча (1938). У 1941 у складзе стралк. корпуса пад камандаваннем ген.-лейт. Л. Р. *Пятроўскага* ўдзельнічаў у абарончых баях пад Жлобінам. З вер. 1941 нам. па ваен. пытаннях, са снеж. 1941 кіраўнік Сакалішчанскай падп. арг-цыі, якая аб'ядноўвала каля 50 чал., мела групы ў 10 населеных пунктах Дрысенскага, Полацкага і Расонскага р-наў. З мая 1942 нач. штаба спецатрада «Баявы» НКУС СССР, з сак. 1943 — камандзір разведгрупы ў *Полацка-Лепельскай партызанскай зоне.* З 1956 у запасе, маёр.

**ПАПО́ВА** Лізавета Васілеўна (н. 7.9. 1912, в. Грачоўка Арэнбургскай вобл.), адзін з кіраўнікоў парт. падполля на тэр. Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1937. Скончыла Рэсп. парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1948). Перад вайной сакратар Баранавіцкага гаркома КП(б)Б. У студз.— ліп. 1942 на парт. рабоце ў Арэнбургскай вобл. З 27.7.1942 у распараджэнні ЦК КП(б)Б, з снеж. 1942 пам. упаўнаважанага ЦК КП(б)Б па Баранавіцкай вобл., з жн. 1943 упаўнаважаная *Баранавіцкага падпольнага абкома КП(б)Б* па г. Баранавічы. З кастр. 1943 1-ы сакратар *Баранавіцкага падпольнага гаркома КП(б)Б*, адначасова ( да студз. 1944) рэдактар падп. газ. *«За Родину»*.

М. Ф. Паноў. В. С. Папоў.



З ліп. 1944 3-і сакратар Баранавіцкага гаркома, 2-і сакратар Слонімскага РК КП(б)Б. У 1946—86 на парт., сав. і адм. рабоце.

**ПАПО́ВА**, вёска на тэр. Шумілінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1 км на ПнУ ад в. Рацэтнікі Обальскага пасялковага Савета. Перад вайной у ёй жыло 57 чал. У снеж. 1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 26 жыхароў, вёску (11 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1969 на месцы вёскі пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**ПАПО́ВА ГРАДА́**, вёска на тэр. Чэрвеньскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на У ад в. Дуброва Грабянецкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 58 чал. 2.5.1944, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 55 жыхароў, у т. л. 30 дзяцей, вёску (22 двары) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

У 1982 на месцы вёскі ўзведзены мемар. комплекс. У пачатку яго пастаўлена стэла з памятным надпісам. На месцы кожнага двара мемарыяльны знак — ніжні абпалены вянок зруба і сімвалічны чорны комін, да якога прымацавана таблічка з прозвішчамі загінуўшых жыхароў. Адноўлена 3 калодзежы, зроблены макет згарэўшага хлява, дзе былі знішчаны жыхары вёскі. Усе элементы мемарыяла злучаны сцяжынкамі, якія абкладзены камянямі.

**ПАПО́Ў** Васіль Сцяпанавіч (8.1.1894, г. п. Кіквідзе Валгаградскай вобл.— 2.7.1967), ген.-палк. (1944), Герой

Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1919. Скончыў Ваен. акадэмію РСЧА (1922). У арміі з 1916, у Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз. вайны, сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну камандзір корпуса, нам. камандуючага, у лют. 1942—крас. 1944 камандуючы 10-й арміяй Зах. фронту, нам. камандуючага 1-м Бел. фронтам, з мая 1944 камандуючы 70-й арміяй, якая ўдзельнічала ў *Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944*, вызваленні Брэста. Да 1959 на адказных пасадах у Сав. Арміі. Дэп. ВС СССР у 1946—50. Яго імем названы вуліцы ў Брэсце і Гродне.

**ПАПО́Ў** Пётр Емяльянавіч (н. 24.9. 1919, в. Цярновая Шабекінскага р-на Белгарадскай вобл.), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсам.-маладзёжнага падполля і партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1943. З чэрв. 1944 на фронце. 18.7. 1942—22.11.1943 сакратар *Слуцкага падпольнага міжрайкома ЛКСМБ*, адначасова 1.12.1942—1.11.1943 сакратар Грэскага падп. РК ЛКСМБ, 26.6.1943—6.7.1944 сакратар *Мінскага падпольнага абкома ЛКСМБ*. Пасля вайны на камсам., парт. і гасп. рабоце.

**ПАПСУ́Й-ШАПКО́** Міхаіл Антонавіч (23.2.1900, г. Енакіева Данецкай вобл.— ліп. 1941), удзельнік абарончых баёў на Беларусі ў 1941. Чл. КПСС з 1920. У Чырв. Арміі з 1918, удзельнік грамадз. вайны. Скончыў 14-ю пях. Палтаўскую школу камандз. нага саставу (1923). Ваен. акадэмію імя М. В. Фрунзе (1940). З сак. 1941 камандзір 6-й Арлоўскай Чырванасцяжнай стралк. дывізіі, якая дыслацыравалася ў Брэсце. 22.6.1941 часці дывізіі пад камандаваннем палк. П.-Ш. у ліку першых сустрэлі праціўніка, потым стрымлівалі яго наступленне пад Жабінкай, Кобрынам, на подступах да Пінска. 12.7.1941 дывізія заняла абарону на Крычаўскім напрамку па р. Сож у раёне Чэрыкава. 14.7.1941 вылучаны з дывізіі атрад (у складзе 84-га стралк. палка і 3-га батальёна 125-га стралк. палка) пад яго камандаваннем выйшаў на рубеж Хіславічы — Парадзіна (раён Мсціслава) і ў жорсткіх баях паспяхова адбіваў бесперапынныя атакі намнога большых сіл праціўніка. Тут П.-Ш. загінуў. Пад Крычавам у гонар абаронцаў горада, у т. л. байцоў пад камандаваннем П.-Ш., пастаўлены помнік.

**ПАПЯЛКІ**, вёска на тэр. Расонскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 7 км на У ад в. Марачкова. У гады акупацыі, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі жыхароў, вёску спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1968 на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму на месцы былой вёскі насыпаны курган.

**ПАРА́Д ПЕРАМО́ГІ** ў Маскве. Адбыўся на Краснай пл. 24.6.1945 у азнаменаванне перамогі сав. народа і яго Узброеных Сіл над фаш. Германіяй у Вял. Айч. вайне. У ім удзельнічалі зводныя палкі франтоў, Наркамата абароны СССР і ВМФ СССР, ваен. акадэмій, вучылішчаў і часці Маскоўскага гарнізона. Зводныя палкі былі ўкамплектаваны радавымі, сяржантамі і афіцэрамі розных родаў войск, якія праявілі сябе ў баях і мелі баявыя ордэны (у кожным палку больш за 1 тыс. чал.). Сцяганосцы з асістэнтамі неслі па 36 баявых сцягоў злучэнняў і часцей кожнага фронту, што найбольш вызначыліся ў баях. Замыкаў строй зводны полк маракоў і марскіх пехацінцаў. У П. П. ўдзельнічаў таксама зводны ваен. аркестр у саставе 1400 чал. Парад прымаў нам. Вярх. Галоўнакамандуючага Маршал Сав. Саюза Г. К. Жукаў, камандаваў парадам Маршал Сав. Саюза К. К. Ракасоўскі — ветэраны Бел. ваен. акругі, якія камандавалі 1-м і 2-м Бел. франтамі на завяршальным этапе вайны. У час урачыстага маршу наперадзе везлі *Сцяг Перамогі*, за ім ішлі зводныя палкі франтоў (у парадку іх размяшчэння на тэатры ваен. дзеянняў пад канец вайны — з Пн на Пд): Карэльскага, Ленінградскага, 1-га Прыбалт., 3-га, 2-га і 1-га Бел., 1-га, 4-га, 2-га і 3-га Укр. франтоў. На чале палкоў былі камандуючыя войскамі франтоў, а ў палках 1-га і 2-га Бел. франтоў — іх першыя намеснікі. У саставе палка 1-га Бел. фронту знаходзіліся прадстаўнікі Войска Польскага. Сярод удзельнікаў П. П. былі дзесяткі беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі, у т. л. двойчы Героі Сав. Саюза П. Я. Галавачоў, І. І. Гусакоўскі, І. І. Якубоўскі, Героі Сав. Саюза С. А. Красоўскі, Ф. І. Перхаровіч і інш. Услед за палкамі зводная калона сав. воінаў унесла на Красную пл. 200 апушчаных да зямлі сцягоў разгромленых ням.-фаш. войск. Пад дробат барабанаў гэтыя сцягі былі кінуты да падножжа маўзалея У. І. Леніна. Завяршылі П. П. ваен. тэхніка розных відаў, падраздзяленні паветр.-дэсантных войск і інш. П. П. з'явіўся яркай дэманстрацыяй магутнасці і воінскай доблесці Узброеных Сіл СССР. *І. С. Храпаў.*

**ПАРАФ'Я́НАЎСКІ БОЙ 1943**, бой паміж *партызанскай брыгадай «Жалязняк»* (Мінская вобл.) і ням.-фаш. захопнікамі на чыг. ст. Параф'янава на лініі Маладзечна — Полацк 18.2.1943.

Партыз. разведка брыгады ўстанавіла, што на чыг. ст. Параф'янава да пач. лют. 1943 сабралася вял. колькасць сена, збожжа, лесапіламатэрыялаў. На станцыі і вакол яе размяшчаліся маршавыя падраздзяленні вермахта. Памяшканні гарнізона, якія налічвалі каля 130 гітлераўцаў, былі абгароджаны дротам, подступы да будынкаў ахоўвалі 3 агнявыя кропкі.

У ноч на 18.2.1943 партыз. атрады нанеслі гал. ўдары ўздоўж чыг. пуці з боку ст. Будслаў з Пд — у напрамку лесапільнага з-да, гандлёвага склада, казармы гарнізона і з Пн у напрамку чыг. моста, склада са збожжам. Каб адцягнуць увагу ворага, партызаны спачатку абстралялі казармы і ўмацаванні суседняга гарнізона ў г. Докшыцы, каб выманіць туды частку сіл з параф'янаўскага гарнізона. У выніку бою партызаны знішчылі каля 50 гітлераўцаў, разбурылі будынак вакзала, усю станцыйную гаспадарку, спалілі 3 склады са збожжам і сенам, лесапільны з-д, пашкодзілі вадакачку і 5 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі сувязі. Партызаны страцілі 4 чал. забітымі і паранены мі. *У. С. Пасэ.*

**ПАРАХНЕ́ВІЧ** Уладзімір Аляксеевіч (18.1.1918, в. Аўсімавічы Бабруйскага р-на — 28.7.1980), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1944. Заслужаны настаўнік БССР (1965). Скончыў БДУ (1941). Са жн. 1941 у падп. групе Варатынскага сельсавета Бабруйскага р-на, з ліп. 1942 партызан 537-га атрада, камандзір дыверсійнай групы атрада, якая дзейнічала на чыгунцы Жлобін — Бабруйск і пусціла пад адхон 21 варожы эшалон. З ліст. 1943 палітрук роты 539-га партыз. атрада, з чэрв. 1944 камісар 102-га атрада *партызанскай брыгады 9-й імя С. М. Кірава.* Пасля вайны на камсам. і пед. рабоце ў Мінску. Аўтар падручнікаў для школ, кн. «Вогненныя віхры» (1969).

**ПАРМО́Н** Сяргей Ігнатавіч (н. 5.3. 1911, в. Касцяшы Уздзенскага р-на), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсам.-маладзёжнага падполля і партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1939 . Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1949). З 1940 сакратар Мінскага абкома ЛКСМБ. З ліст. 1942 упаўнаважаны ЦК ЛКСМБ па Мінскай вобл., з 1.1.1943 да 22.11.1943 сакратар *Слуцкага падпольнага міжрайкома ЛКСМБ*, з 26.6.1943 да 6.7.1944 сакратар *Мінскага падпольнага абкома ЛКСМБ*. З 1944 на камсам., парт., сав. і гасп. рабоце.

**ПАРО́МЧЫК** Іван Паўлавіч (20.2.1896, в. Навасёлкі Пухавіцкага р-на — 7.6. 1960), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1917. З 1925 на гасп., сав. і парт. рабоце. У жн. 1942 накіраваны ў тыл ворага. З 3.10.1942 чл., з 15.3 да 18.9.1943 сакратар *Мінскага падпольнага міжрайкома КП(б)Б*, потым сакратар *Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б*. З 1944 на сав. і гасп. рабоце: старшыня выканкома Мінскага гарсавета, нам. міністра харчовай прамысловасці БССР, кіраўнік трэста.

**«ПАРТИЗА́Н БЕЛОРУ́ССИИ»**, газета, заснавана ў 1930 пад назвай «Шлях калектывізацыі». У час ням.-фаш.

акупацыі орган Пухавіцкага падп. РК КП(б)Б. Вядома 28 нумароў за 22.6.1943—20.5.1944 на рус. мове. Рэдактары: М. П. Смірноў, У. А. Ляўданскі. Пасля вызвалення выдавалася пад наз. «Сцяг камунізма», з 1962 «Сцяг працы», орган Пухавіцкага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«ПАРТИЗА́Н БЫ́ХОВЩИНЫ»,** газета, заснавана ў 1918 пад наз. «Известия Быховского ревкома». У час ням.-фаш. акупацыі орган Быхаўскага падп. РК КП(б)Б. Выйшла 8 нумароў у 1943—44. Вядомы № 5 ад 3.10.1943 на рус. мове. Рэдактар М. П. Куракін. Пасля вызвалення выдавалася пад наз. «Сацыялістычная перамога», з 1957 «Сцяг працы», з 1963 «Маяк Прыдняпроўя», орган Быхаўскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«ПАРТИЗА́Н ГО́МЕЛЬЩИНЫ»**, газета, заснавана ў 1935 пад наз. «Сталінец». У час ням.-фаш. акупацыі орган Журавіцкага падп. РК КП(б)Б. Вядома 10 нумароў за 20.7—25.9. 1943 на бел. і рус. мовах. Рэдактар А. І Казіміраў. Пасля вызвалення выдавалася да 1956 пад першапачатковай назвай і «Сцяг перамогі», орган Журавіцкага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**«ПАРТИЗА́Н ПОЛЕ́СЬЯ»**, газета, орган Іванаўскага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 54 нумары за 19.9.1943—24.3. 1944 на рус. мове. Рэдактар І. А. Антонаў. Пасля вызвалення выдавалася пад той жа назвай, потым «Сталінскі шлях», з 1956 «Камуніст», з 1965 «Чырвоная звязда», орган Іванаўскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«ПАРТИЗА́Н-КОМСОМО́ЛЕЦ»,** газета, орган Заслаўскага падп. РК ЛКСМБ. Выдадзена 7 нумароў 29.10 — 23.12. 1943 на рус. мове. Рэдактар М. П. Собалеў.

**«ПАРТИЗА́НСКАЯ ПРА́ВДА»,** газета, орган Докшыцкага падп. РК КП(б)Б. Выходзіла ў ліст. 1943— чэрв. 1944. Вядомы № 14(81) за чэрв. 1944 на рус. мове. Рэдактар І. А. Нікіценка. Пасля вызвалення да 1962 выдавалася пад наз. «Ленінская праўда», з 1965 «Ленінская трыбуна», орган Докшыцкага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«ПАРТИЗА́НСКАЯ ПРА́ВДА»**, газета, орган Дунілавіцкага падп. РК КП(б)Б. Вядома 8 нумароў за 1.5— ліп. 1944 на рус. мове. Рэдактары: Б. Л. Айзенберг, Р. І. Інсафутдзінаў (з 30.3. 1944), В. Дз. Бармічаў (з 17.5.1944). № 1—2 за май 1944 выйшлі пад наз. «Звязда». Пасля вызвалення да 1956 выдавалася пад наз. «Знамя Сталина», да 1960 «Новый путь», орган Дунілавіцкага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**«ПАРТИЗА́НСКАЯ ПРА́ВДА»**, газета, орган Ільянскага падп. РК КП(б)Б. Вядома 25 нумароў за 22.6.1943—7.5.1944 на рус. мове. Рэдактары: М. А. Мядзведзеў, В. Ф. Іваноў. Пасля вызвалення выдавалася да 1957 пад наз. «Сцяг перамогі», орган Ільянскага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**«ПАРТИЗА́НСКАЯ ПРА́ВДА»,** назва № 1—13 за 20.6—28.8.1943 газеты *«Красное знамя»*, органа Краснапольскага падп. РК КП(б)Б.

**«ПАРТИЗА́НСКАЯ ПРА́ВДА»**, газета, заснавана ў 1931 пад наз. «За камуністычную працу». У час ням.-фаш. акупацыі орган Магілёўскага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 24 нумары за 7.7.1943—16.6.1944 на рус. мове. Рэдактар С. І. Каўрыгін. Пасля вызвалення выдавалася пад наз. «Сацыялістычная праца», з 1962 «За камуністычную працу», орган Магілёўскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«ПАРТИЗА́НСКИЙ ПУТЬ»**, газета, заснавана ў 1935 пад наз. «Бальшавік Кругляншчыны». У час ням.-фаш. акупацыі орган Круглянскага падп. РК КП(б)Б. Вядома 11 нумароў за 12.8.1943—11.5.1944 на рус. мове. Рэдактар І. С. Ігнатовіч. Пасля вызвалення да 1959 выдавалася пад наз. «Ленінскі сцяг», з 1967 «Сельскае жыццё», орган Круглянскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«ПАРТИЗА́НСКИЙ ПУТЬ»**, газета, заснавана ў 1931 пад наз. «Камуністычны шлях». У час ням.-фаш. акупацыі орган Крупскага падп. РК КП(б)Б. Выходзіла ў жн. 1942— ліп. 1943. Вядомы № 5 ад 8.11.1943 на рус. мове. Пасля вызвалення выдавалася пад наз. «Голас калгасніка», з 1960 «Зара камунізма», з 1963 «Ленінскім курсам», орган Крупскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**ПАРТНО́ВА** Зінаіда Мартынаўна (20.2. 1926, Ленінград — студз. 1944), удзельніца камсам. падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. Герой Сав. Саюза (1958). Чл. ВЛКСМ. З 1942 чл. к-та *Обальскага камсамольска-маладзёжнага падполля.* Распаўсюджвала лістоўкі, удзельнічала ў дыверсіях на цагельным з-дзе, электрастанцыі і вадакачцы чыг. ст. Обаль, у аперацыі па знішчэнню гітлераўцаў (каля 100). Разведчыца партыз. атрада імя Варашылава брыгады імя Леніна. Пранікала ў варожыя гарнізоны, здабывала каштоўныя звесткі. У снеж. 1943 па дарозе ў атрад пасля выканання задання схоплена фашыстамі. На допыце застрэліла афіцэра. Закатавана гітлераўцамі. Яе імем названы вуліцы ў Ленінградзе, Полацку, г. п. Обаль, многія піянерскія дружыны і атрады школ Беларусі і інш. рэспублік, цеплаход; у Обалі на доме, дзе яна жыла, устаноўлена мемар. дошка.

**ПАРТЫЗА́Н** (італьян. partigiano), добраахвотны ўдзельнік узброенай барацьбы супраць іншаземных захопнікаў у іх тыле.

Партызанамі становяцца прадстаўнікі мясц. насельніцтва, ваеннаслужачыя, вымушаныя астацца ў тыле ворага або накіраваныя туды спецыяльна. Каб весці планамерныя і мэтанакіраваныя баявыя дзеянні, П. аб'ядноўваюцца ў атрады, брыгады, палкі і інш. *партызанскія фарміраванні.* Пры ўступленні ў атрад П. клянуцца быць стойкімі ў барацьбе і


У. А. Парахневіч. З. М. Партнова.

верныя народу (гл. *Прысяга беларускага партызана*). У гады Вял. Айч. вайны савецкіх П. на барацьбу з ворагам узнімала свядомая класавая нянавісць да фашызму, вял. любоў да Радзімы, камуніст. перакананасць, адданасць Сав. уладзе, ідэалам сацыялізму. Адстойваючы свабоду і незалежнасць сацыяліст. Радзімы, яны здзейснілі велічны подзвіг. Прэзідыум Вярх. Савета СССР 2.2.1943 устанавіў медаль «Партызану Айчыннай вайны» І і ІІ ступеней.

**«ПАРТЫЗА́Н»,** газета, заснавана ў 1941 пад назвай «За бальшавіцкія тэмпы». У час ням.-фаш. акупацыі орган Калінкавіцкага падп. РК КП(б)Б. Выходзіла ў маі — ліст. 1943. Вядома 7 нумароў за 18.7—18.9.1943 на бел. мове. Рэдактары: М. І. Бандарчук, А. У. Броўка. Пасля вызвалення выдавалася пад першапачатковай назвай, з 1952 «Сцяг камунізма», з 1962 «За камунізм», орган Калінкавіцкага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«ПАРТЫЗА́Н»,** газета, заснавана ў 1933 пад назвай «Ударнік». У час ням.-фаш. акупацыі орган Суражскага падп. РК КП(б)Б. Выходзіла ў лют.— кастр. 1943. Вядомы № 1 ад 5.2.1943 на бел. мове. Рэдактар А. М. Шутаў. Пасля вызвалення да 1956 выдавалася пад першапачатковай назвай, да 1960 «Кліч Ільіча», орган Суражскага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**«ПАРТЫЗА́Н БЕЛАРУ́СІ»,** газета, орган Гарадзішчанскага падп. РК КП(б)Б. Выдавалася ў студз. 1943 — чэрв. 1944. Вядома 8 нумароў за 13.3—18.6. 1944 на бел. і рус. мовах. Рэдактар Г. С. Грыбава. Пасля вызвалення вы-

ходзіла да 1962 пад наз. «Советская Родина», орган Гарадзішчанскага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**«ПАРТЫЗА́Н ГО́МЕЛЬШЧЫНЫ»**, газета, орган *Гомельскага падпольнага абкома КП(б)Б*. Вядома 17 нумароў за 25.3—3.10.1943 на бел. мове.

**«ПАРТЫЗА́НСКАЕ ЖЫГА́ЛА»**, падпольны антыфаш. сатырычны лісток, дадатак да газ. *«Сцяг свабоды»* [орган Мірскага падп. РК КП(б)Б]. Выданне пачалося з № 7, выйшлі 2 нумары (№ 7 ад 27.4.1944 і № 8 ад 28.5. 1944) на бел. мове. Лісток перадрукоўвалі газеты Стаўбцоўскага, Карэліцкага, Навамышскага і Гарадзішчанскага падп. райкомаў КП(б)Б. Рэдактар І. А. Брыль.

**ПАРТЫЗА́НСКАЕ ЗЛУЧЭ́ННЕ,** адна з арганізацыйных форм аб'яднання партыз. брыгад, палкоў, атрадаў, якія дзейнічалі на тэрыторыі, акупіраванай ням.-фаш. захопнікамі.

У выніку шырокага партыз. руху на акупіраванай тэрыторыі былі створаны шматлікія партыз. фарміраванні, якім для правядзення баявых аперацый у шырокіх маштабах патрэбны былі цэнтралізаванае кіраўніцтва і рэгулярная сувязь з сав. тылам. Фарміраваліся ЦШПР, БШПР, падпольнымі абкомамі, міжрайкомамі, міжрайпартцэнтрамі і райкомамі партыі. Баявы і колькасны склад П. з. залежаў ад партыз. сіл у раёне, іх дыслакацыі, умоў размяшчэння, матэрыяльнага забеспячэння, характару баявых задач. У баявой дзейнасці П. з. спалучаліся абавязковае выкананне загадаў аб'яднанага камандавання ўсімі фарміраваннямі злучэння пры вырашэнні агульных баявых задач і максімальная самастойнасць у выбары форм і метадаў барацьбы.

На акупіраванай тэр. Беларусі ў розны час дзейнічала каля 40 тэрытарыяльных злучэнняў [называліся П. з., ваенна-аператыўнымі групамі (ВАГ) і цэнтрамі]: Баранавіцкае, Беластоцкае, Брэсцкае, Вілейскае, Гомельскае, Магілёўскае, Мінскае, Палескае, Пінскае абласныя злучэнні; злучэнні Барысаўска-Бягомльскай, Івянецкай, Лідскай, Паўднёвай зоны Баранавіцкай вобл., Паўднёва-Прыпяцкай зоны Палескай вобл., Слуцкай, Стаўбцоўскай, Шчучынскай зон; Клічаўскі аператыўны цэнтр; Асіповіцкая, Быхаўская, Бялыніцкая, Бярэзінская, Кіраўская, Клічаўская, Круглянская, Магілёўская, Рагачоўская, Шклоўская ВАГ; партыз. злучэнне «Трынаццаць» і інш. (пра кожнае П. з. гл. асобныя артыкулы). Большасць П. з. створаны ў 1943. Апрача асобных атрадаў, палкоў, брыгад, якія ўваходзілі ў злучэнне, часта ствараліся спец. падраздзяленні аўтаматчыкаў, артылерыстаў, мінамётчыкаў, якія падначальваліся непасрэдна камандзіру злучэння. Узначальвалі злучэнні звычайна сакратары падп. абкомаў, міжрайкомаў (міжрайпартцэнтраў) партыі ці афіцэры Чырв. Арміі; кіраўніцтва ажыццяўлялі праз штабы злучэнняў. П. з. вытрымалі выпрабаванні ў барацьбе з гітлераўскімі акупантамі, садзейнічалі павышэнню ўзроўню кіраўніцтва партыз. рухам, баявой актыўнасці брыгад і атрадаў. *А. Л. Манаенкаў.*

**«ПАРТЫЗА́НСКАЕ СЛО́ВА»**, лістоўка-плакат, выданне *Вілейскага падпольнага абкома КП(б)Б*. Вядома 9 нумароў за май — 5 кастр. 1943 на бел. мове.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА,** асноўнае злучэнне партыз. атрадаў, якія дзейнічалі на тэрыторыі, акупіраванай ням.-фаш. захопнікамі.

Аб'яднанне партыз. атрадаў у брыгады выклікана разгортваннем усенар. партыз. руху. Яно дало магчымасць шырока весці наступальныя дзеянні, асабліва на камунікацыях праціўніка, павысіць баявую актыўнасць атрадаў, іх ініцыятыву, узаемадапамогу, эфектыўна выкарыстоўваць радыёсувязь, наладжваць забеспячэнне партызан з сав. тылу зброяй, боепрыпасамі.

На Беларусі першае падобнае да брыгады злучэнне партыз. атрадаў — «гарнізон Ф. І. Паўлоўскага» — створана ў студз. 1942 у Акцябрскім р-не. У крас. 1942 створаны брыгады 1-я Беларуская і «Аляксея» на базе атрадаў, якія дзейнічалі ў Суражскім і сумежных з ім раёнах Віцебскай вобл. Усяго на тэр. Беларусі ў Вял. Айч. вайну дзейнічала 199 партыз. брыгад і 14 палкоў, якія пасля злучэння з Чырв. Арміяй вызначаны БШПР як брыгады.

Брыгады былі атраднага (радзей батальённага) складу, ядналі ў асноўным 3—7 атрадаў, мелі ад некалькіх соцень да некалькіх тысяч байцоў. Структурную асаблівасць мелі брыгады, створаныя ў ліст. 1942 — сак. 1943 Клічаўскім аператыўным цэнтрам, у якіх адзін з атрадаў быў галаўным, а яго камандаванне і штаб адначасова былі камандаваннем і штабам брыгады. Кіраўніцтва брыгады звычайна складалася з камандзіра, камісара, нач. штаба, нам. камандзіра па разведцы, дыверсіях, нам. камандзіра па забеспячэнню, нач. мед. службы, нам. камісара па камсамолу. У большасці брыгад былі штабныя роты, ці ўзводы сувязі, аховы, радыёстанцыя, падп. друкарні, у многіх — свае шпіталі, майстэрні па рамонту зброі і маёмасці, узводы боезабеспячэння, пасадачныя пляцоўкі для самалётаў. Брыгады мелі зоны баявой дзейнасці, асн. і запасныя базы, стваралі вузлы супраціўлення, заставы, сістэму апорных і назіральных пунктаў, разгалінаваную сетку сувязных, скрытыя рэзервы, атрады і групы мясцовай самаабароны, сямейныя атрады і лагеры, наладжвалі прамысловую вытворчасць, якая задавальняла патрэбы партызан і насельніцтва. Баявую і паліт. дзейнасць П. б. на акупіраванай тэр. Беларусі накіроўвалі ЦК КП(б)Б, ЦШПР і БШПР, падп. абкомы, райкомы і міжрайкомы партыі. Брыгадная форма арганізацыі партыз. сіл паспяхова вытрымала выпрабаванне ў барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі. Пра партыз. брыгады, якія дзейнічалі на акупіраванай тэр. Беларусі ў Айч. вайну, гл. асобныя артыкулы.

*А. Л. Манаенкаў, Д. З. Мурыеў, В. А. Перажогін.*

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 1-я.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Бялыніцкага, Круглянскага, Шклоўскага і Крупскага р-наў.

Створана 1.6.1944 на базе 1-га батальёна *партызанскага палка «Трынаццаць»*, уваходзіла ў партыз. злучэнне *«Трынаццаць»*. Камандзір брыгады М. І. Масквін, камісар М. К. Гардзіенкаў, нач. штаба К. М. Кустаў.

Партызаны наносілі ўдары па варожых камунікацыях у раёне чыгунак Барысаў — Орша, Магілёў — Шклоў. 20.6.1944 падарвалі 250 рэек. 30.6.1944 брыгада (атрады 1-ы, 2-і, 3-і) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 1-я АНТЫФАШЫ́СЦКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Барысаўскага, Лагойскага, Плешчаніцкага, Куранецкага, Плісkага, Пастаўскага, Лепельскага, Ушацкага р-наў.

16.8.1943 на бок партызан перайшла т. зв. «Руская нацыянальная народная армія», арганізаваная ням.-фаш. захопнікамі з ваеннапалонных; атрымала найменне партыз. брыгады 1-й Антыфашысцкай. Камандзіры У. У. Гіль-Радыёнаў (загінуў), І. М. Цімчук, камісары А. М. Касцяневіч (в. а.), Цімчук, І. М. Яўмененка, нач. штаба Б. М. Панамарэнка.

Партызаны ў жн. 1943 разграмілі варожы гарнізон у Докшыцах, на чыг. ст. Крулеўшчына знішчылі гарнізон, паравознае дэпо, падарвалі 2 чыг. масты, 3 км чыгункі (гл. *Докшыцка-Крулеўшчынская аперацыя 1943*). У вер.— кастр. з брыгадамі «Дзядзькі Колі», «Смерць фашызму» напалі на варожыя гарнізоны ў в. Зембін і г. Вілейка (гл. *Вілейскі бой 1943*); 28.11.1943 на дарозе Лагойск — Плешчаніцы разграмілі варожую калону, знішчылі 250 гітлераўцаў; 17.3.1944 у в. Шыпы Плісkага р-на разграмілі варожую роту; 25.9.1943 на чыгунцы Мінск — Смалявічы падарвалі каля 2500 рэек, у чэрв. 1944 — 1200 рэек. У крас.— маі 1944 брыгада ўдзельнічала ў абароне Полацка-Лепельскай партыз. зоны і ў прарыве варожай блакады. У гэтых баях яна страціла забітымі і прапаўшымі без вестак 1026 партызан. 4.7.1944 брыгада (422 партызаны; атрады 1-ы, 2-і, 3-і, 4-ы) злучылася з Чырв. Арміяй. Цімчуку прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 1-я АСІПО́ВІЦКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Асіповіцкага, Бабруйскага, Чэрвеньскага, Пухавіцкага р-наў.

У студз. 1943 камандаванне партыз. атрада 210-га арганізацыйна аформіла і падпарадкавала свайму кіраўніцтву атрады 211-ы, 212, 213-ы; у лют. гэтая група атрадаў вызначана як партыз. брыгада 1-я Асіповіцкая. Камандзіры М. П. Каралёў, С. С. Сумчанка (в. а.), камісары А. В. Шыянок (в. а.), В. В. Глотаў; нач. штаба А. І. Лукашэнка (в. а.), В. В. Глотаў, П. А. Маркоўскі. З крас. 1943 уваходзіла ў ВАГ пры Магілёўскім падп. абкоме КП(б)Б.

Асн. ўдар партызаны наносілі на чыгунках Пухавічы — Жлобін,

Слуцк — Асіповічы — Магілёў, Вярэйцы — Градзянка. У ліп. 1943 разбурылі 2 км чыгункі і знішчылі мост на ўчастку Асіповічы — Татарка. Вялі сістэматычныя баі па ачышчэнню раёна дыслакацыі ад ням.-фаш. захопнікаў, абароне партыз. зоны. У ліп. 1943 у сувязі з стварэннем Асіповіцкай ВАГ брыгада (540 партызан) расфарміравана. Камандзіру брыгады Каралёву прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 1-я БАБРУ́ЙСКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Асіповіцкага, Бабруйскага і Парыцкага р-наў.

Створана ў лют. 1943 на базе 752-га атрада (арганізаваны ў студз. 1942) Клічаўскага аператыўнага цэнтра, у крас. 1943 перададзена Магілёўскай (абласной) ваенна-аператыўнай групе. Камандзір брыгады В. І. *Лівенцаў,* камісар Дз. А. Ляпёшкін, нач. штаба С. З. Крамнёў.

20.3.1942 атрад Лівенцава (752-і) удзельнічаў у разгроме варожага гарнізона ў г. п. Клічаў (гл. ў арт. *Клічаўскія бai 1942, 1943*), у чэрв.— жн. 1942 — у абароне *Клічаўскай партызанскай зоны,* у прарыве блакады ў час карнай аперацыі. Партызаны ў ліст. 1942 каля чыг. ст. Талька падарвалі і спалілі эшалон з запчасткамі да самалётаў і аўтамашын. У жн. 1943 перабілі больш за 1000 рэек.

29.11.1943 брыгада (1127 партызан; атрады 752-і, 753-і імя 25 гадоў РСЧА, 754-ы імя М. І. Сямісалава) злучылася з Чырв. Арміяй. Пасля злучэння брыгада ўключана ў баявы парадак 37-й гвардз. стралк. дывізіі, потым заняла рубеж абароны 118-га гвардз. стралк. палка. 15.12.1943 выведзена ў тыл і расфарміравана. Камандзіру брыгады Лівенцаву прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 1-я БАРАНАВІЦКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Навагрудскага, Карэліцкага, Любчанскага р-наў.

Створана ў ліст. 1943 на базе атрадаў «Бясстрашны» (арганізаваны ў чэрв. 1942), імя Фрунзе (арганізаваны ў маі 1942), «Арол» (арганізаваны ў маі 1943, у лют. 1944 перададзены *партызанскай брыгадзе імя С. М. Кірава*), імя Молатава (арганізаваны ў сак. 1943). Камандзір брыгады С. Ф. *Бубін,* камісар М. Ц. Цяперын, нач. штаба І. М. Гайко.

Партызаны зрывалі варожыя перавозкі па чыгунцы і шашэйных дарогах. У жн. 1942 — жн. 1943 атрад «Бясстрашны» на чыг. участку Полацк — Даўгаўпілс падарваў і пашкодзіў 29 эшалонаў, у студз. 1943 удзельнічаў у разгроме апорнага пункта ў в. Слабада, у лют.— сак. 1943 вёў баі з карнікамі. 10.3.1944 партызаны брыгады правялі засадны бой на дарозе Навагрудак — Валеўка. Толькі 9.4.1944 у баі захапілі 2 кулямёты, 30 вінтовак, боепрыпасы. 1 — 8.7.1944 вялі баі на дарогах, па якіх адступаў вораг.



Камандзір 1-й Бабруйскай партызанскай брыгады В. І. Лівенцаў (першы злева) ставіць баявую задачу. Жнівень 1943.

8.7.1944 брыгада (458 партызан; атрады «Бясстрашны», імя Фрунзе, імя Молатава, імя Сталіна) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1965 у Лідзе ў гонар брыгады пастаўлена стэла, у 1969 у в. Бакшты Іўеўскага р-на — абеліск, у 1979 у в. Ярэмічы Карэліцкага р-на — абеліск, у 1965 у Карэлічах устаноўлена мемар. дошка.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 1-я БЕЛАРУ́СКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Суражскага, Віцебскага і Гарадоцкага р-наў.

Створана 8.4.1942 на базе асобна дзейных атрадаў М. П. Шмырова («Бацькі Міная», створаны ў ліп. 1941, пазней прысвоена імя камандзіра атрада Р. С. Курмялёва, які загінуў), А. П. Дзіка (пазней А. Дз. Гурко), Д. Ф. Райцава і М. Ф. Біруліна. У ліп. 1942 з брыгады вылучаны 200 партызан для фарміравання *партызанскай брыгады дыверсійнай Беларускай імя У. І. Леніна,* у вер. 1942 — атрад Райцава (на яго базе створана *партызанская брыгада імя Чырванасцяжнага Ленінскага камсамола*), у лют. 1943 — атрад М. Ф. Біруліна (на яго базе створана *партызанская брыгада 1-я Віцебская*), у ліп. 1943 — атрад Гурко [былы Дзіка, пазней разгорнуты ў *партызанскую брыгаду 1-ю Беларускую* (2-га складу)]. Камандзіры брыгады 1-й Беларускай М. П. Шмыроў (да ліст. 1942), Я. З. Захараў, камісары Р. У. Шкрэда, Ц. Р. Кавалеўскі (в. а.), нач. штаба Захараў, І. І. Панчошны, М. С. Емельянаў, М. А. Золін.

З першых дзён акупацыі атрад «Бацькі Міная» рабіў засады на дарогах Сураж — Усвяты, Сураж — Веліж, Веліж — Усвяты, нападаў на варожыя гарнізоны. У вер. 1941 разграміў гарнізон у г. п. Сураж. У 1942



Камандаванне 1-й Беларускай партызанскай брыгады за распрацоўкай баявой аперацыі. На пярэднім плане першы справа камандзір брыгады М. П. Шмыроў. 1942.



Жыхары Суражскага раёна памагаюць партызанам 1-й Беларускай брыгады капаць акопы. 1942.

партызаны разам з часцямі Чырв. Арміі вызвалілі тэр. часткі Суражскага і Віцебскага р-наў, якая ўвайшла ў Суражскую партыз. зону, ахоўвалі і абаранялі паўд. рубяжы зоны —

*Віцебскія «вароты»*, забяспечвалі праз іх шляхі зносін з сав. тылам. Фарміравалі і пасылалі групы і атрады ў глыбокую разведку і для наладжвання сувязі з партыз. атрадамі інш. раёнаў і абласцей. У сак., чэрв. і снеж. 1942, лют.— сак. і чэрв. 1943 вялі баі з карнікамі. Нападалі на варожыя гарнізоны і апорныя пункты ў в. Малая Любшчына, Вял. Любшчына (май 1942), Смолаўка (жн. 1942) Суражскага, Пуньшча (снеж. 1942) Віцебскага р-наў, падарвалі нафтабазу і знішчылі склады са збожжам у Гарадку (май 1942). Наносілі ўдары на чыгунках і шашэйных дарогах Віцебск — Гарадок, Віцебск — Полацк, па воднай камунікацыі на р. Зах. Дзвіна, захапілі катэр і маторную лодку праціўніка (май 1942), сарвалі суднаходства па Зах. Дзвіне ў навігацыю 1942—43. Колькасны склад брыгады дасягаў 1500—2000 партызан. У баях з ворагам брыгада панесла цяжкія страты. Толькі ў час карнай аперацыі з 14.2 да 19.3.1943 брыгада страціла 669 чал. (забіта 110, паранены 52, прапалі без вестак 224, выйшла ў сав. тыл 98, увайшло ў склад інш. брыгад і атрадаў 185 чал.).

26.10.1943 брыгада [756 партызан; атрады імя Курмялёва, Буеўскі, Дзіка (былы Дз. Я. Воранава), М. П. Машкова, І. І. Жаваранкава] злучылася з Чырв. Арміяй. Камандзіру брыгады Шмырову прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1969 створаны *Віцебскі абласны музей Героя Савецкага Саюза М. П. Шмырова.* У гонар брыгады пастаўлены помнікі: у Віцебскім р-не ў в. Пудаць у 1964, у в. Цімахі ў 1964, каля в. Тарасенкі ў 1970, у в. Казакова ў 1972, у в. Астраўскія ў 1975; у Гарадоцкім р-не каля в. Дуброва ў 1979, каля в. Казловічы ў 1972; устаноўлены мемар. дошкі ў Віцебскім р-не ў в. Заполле ў 1960, у г. п. Сураж у 1961.



Дыверсійная група партызан 1-й Беларускай брыгады (1-га складу) накіроўваецца на баявое заданне.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 1-я БЕЛАРУ́СКАЯ** (2-га складу). Дзейнічала на акупіраванай тэр. Сенненскага, Лепельскага і Халопеніцкага р-наў.

Створана ў вер. 1943 на базе вылучанага ў ліп. 1943 *партызанскай брыгады 1-й Беларускай* атрада А. Дз. Гурко (былы А. П. Дзіка, створаны ў лют. 1942). Камандзіры А. Дз. Гурко, Р. У. Шкрэда, камісар Шкрэда, нач. штаба М. М. Бальшакоў.

Партызаны рабілі дыверсіі на дарогах Халопенічы — Лепель, Халопенічы — Сянно, Халопенічы — Крупкі, Лепель — Барысаў. У сак. 1944 знішчылі варожы ахоўны пункт моста цераз р. Эса на шляху Халопенічы — Сянно. У маі — чэрв. 1944 у час карнай аперацыі *«Баклан»* удзельнічалі ў абароне Сенненскай зоны, з баямі выйшлі з акружэння, захапілі мост цераз р. Эса і ўтрымлівалі да падыходу Чырв. Арміі. 28.6.1944 брыгада (538 партызан; атрады 1-ы, 2-і, 3-і) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 1-я БЕЛАРУ́СКАЯ КАВАЛЕРЫ́ЙСКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Мірскага і Карэліцкага р-наў.

У жн. 1942 з атрада імя Чкалава (гл. *Партызанская брыгада «Уперад»*) вылучылася група Дз. А. Дзенісенкі, якая папоўнілася моладдзю з Мірскага і Карэліцкага р-наў. у снеж. ў яго ўлілася частка *партызанскага атрада Дз. І. Семянцова;* з мая 1943 кав. атрад, з 5.4.1944 кав. дывізіён. У жн. 1944 дывізіён вызначаны як 1-я Бел. кав. брыгада 3-атраднага складу. Камандзір Дзенісенка, камісар У. А. *Грачанічэнка,* нач. штаба І. А. Салашэнка.

Партызаны вялі баі супраць варожых апорных пунктаў, гарнізонаў і паліцэйскіх участкаў у в. Антонава, Вял. Жухавічы, Вял. Слабада і інш. Мірскага р-на. Усяго разгромлена 11 гарнізонаў і паліцэйскіх участкаў, 5 валасных упраў і 24 сельскія дзярж. маёнткі. Перабіта 300 рэек. 2 — 3.7.1944 разам з брыгадамі імя Суворава і «25 гадоў БССР» брыгада вяла баі з ням. войскамі на паўд. ускраіне Налібоцкай пушчы, утрымлівала пераправу цераз Нёман.

10.7.1944 брыгада (530 партызан) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1979 у в. Ярэмічы Карэліцкага р-на ў гонар брыгады пастаўлена стэла.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 1-я БУДА-КАШАЛЁЎСКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Буда-Кашалёўскага, Жлобінскага р-наў.

Створана ў жн. 1943 на базе атрадаў 262-га імя Чкалава, 263-га імя Кутузава, 108-га імя Катоўскага, вылучаных *партызанскай брыгадай 10-й Журавіцкай.* Камандзір А. М. Дземчанка, камісар С. П. Каспрук, нач. штаба А. Я. Фінадзееў, П. Я. Мацюшкоў.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунцы Гомель — Жлобін. Толькі ў ліп.— жн. 1943 пусцілі пад адхон 27 варожых эшалонаў, знішчылі 47 аўтамашын, 12 мастоў, захапілі 10 кулямётаў, 13 аўтаматаў і 180 вінтовак. У жн.— вер. 1943 падарвалі больш за 1000 рэек.

Брыгада (1585 партызан; атрады 262-і імя Чкалава, 263-і імя Кутузава, імя Суворава, імя Ракасоўскага) 2 кастр., 20—25 ліст., 2.12.1943 паатрадна злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 1-я ВІ́ЦЕБСКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Віцебскага, Суражскага, Гарадоцкага і Сіроцінскага р-наў.

Створана ў лют. 1943 на базе атрада М. Ф. Біруліна (арганізаваны ў лют. 1942), вылучанага з *партызанскай брыгады 1-й Беларускай.* У маі 1943 атрады 3-і, 5-ы і 6-ы П. З. Патапенкі вылучаны з брыгады, у кастр. 1943 на іх базе створана *партызанская брыгада 1-я Віцебская* (2-га складу). У вер. 1943 4-ы атрад расфарміраваны. Камандзір брыгады 1-й Віцебскай Бірулін; камісары: У. А. Хабараў, В. Р. Кудзінаў, нач. штаба І. А. Крыцкі (загінуў), Л. П. Карнееў.

Партызаны праводзілі дыверсіі на камунікацыях ворага, у лют.— сак., чэрв. 1943 вялі цяжкія абарончыя баі супраць карнікаў. 1 ліст. і 4 снеж. 1943 брыгада [247 партызан; атрады 1-ы (былы Р. І. Сысоева), створаны ў вер. 1942, 2-і і 4-ы 2-га складу] злучылася з Чырв. Арміяй. У брыгадзе знаходзілася асн. база Віцебскага падп. РК ЛКСМБ. У 1964 у в. Лужкі і ў 1968 у в. Маркавічы Віцебскага р-на ў гонар брыгады ўстаноўлены мемар. дошкі.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 1-я ВІ́ЦЕБСКАЯ** (2-га складу). Дзейнічала на акупіраванай тэр. Бешанковіцкага, Чашніцкага і Смаргонскага р-наў.

Створана ў кастр. 1943 на базе атрадаў 3-га, 5-га і 6-га П. З. Патапенкі, якія ў маі 1943 вылучаны з *партызанскай брыгады 1-й Віцебскай.* 6-ы атрад

у канцы кастр. 1943 расфарміраваны і на яго базе арганізаваны атрады 1-ы, 2-і і 3-і. У маі 1944 брыгада перадыслацыравана ў Смаргонскі р-н Вілейскай вобл. Камандзір Патапенка, камісар В. М. Казлоўскі, нач. штаба І. А. Цімошчанка.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунках Маладзечна — Вільнюс, Маладзечна — Полацк. Наносілі ўдары па гарнізонах і апорных пунктах праціўніка, у т. л. ў кастр. 1943 у в. Дуброва Чашніцкага р-на, у сак. 1944 у в. Прыветак Сенненскага р-на. У чэрв. 1944 у час наступальных баёў Чырв. Арміі падарвалі больш за 600 рэек на чыг. участку Солы — Смаргонь, некалькі мастоў на шашэйных і грунтавых дарогах, разграмілі варожы гарнізон у в. Гервяты Астравецкага р-на.

Брыгада (574 партызаны) 27 чэрв. (атрады 3-і і 5-ы) і 2.7.1944 (атрады 1-ы, 2-і, 4-ы, 6-ы 2-га складу і штаб брыгады) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1975 каля в. Доўгае Бешанковіцкага р-на ў гонар партыз. атрада П. З. Патапенкі пастаўлена стэла.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 1-я ГО́МЕЛЬСКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Чачэрскага, Кармянскага, Святілавіцкага, Веткаўскага р-наў.

Створана ў сак. 1943 на базе атрадаў імя Калініна (арганізаваны ў снеж. 1941), імя Варашылава (Кармянскі, арганізаваны ў маі 1942). Камандзір П. А. *Балыкоў*, камісары П. І. *Дзедзік*, І. Я. *Палякоў*, нач. штаба А. Н. Падабедаў.

У ліп.— вер. 1943 партызаны разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Залессе, Покаць Чачэрскага, в. Сялец Буда-Кашалёўскага р-наў, в. Лецяхі Краснагорскага р-на Арлоўскай вобл., у г. п. Карма. У жн. 1943 на чыг. участку Салтанаўка — Гомель падарвалі больш за 1,5 тыс. рэек. З 24.9 да 1.10.1943 у баях знішчылі некалькі дзесяткаў аўтамашын, 2 цягачы, 2 гарматы, 2 танкі, разграмілі ням. сапёрны батальён, захапілі штабныя дакументы, вызвалілі 150 сав. грамадзян, якіх гітлераўцы вывозілі ў Германію. З часцямі Чырв. Арміі вялі баі каля г. п. Карма.

2 -5.10, 23.11.1943 брыгада (892 партызаны, атрады імя Калініна, імя Варашылава, імя Чапаева, імя Суворава) злучылася з Чырв. Арміяй. Камандзіру дыверсійнага ўзвода атрада імя Калініна Э. В. *Лаўрыновічу* прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1967 у в. Нісімкавічы і ў 1969 у пас. Яміцкі Чачэрскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнікі.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 1-я ДРЫ́СЕНСКАЯ** (у жн. 1942 — кастр. 1943 партызанская брыгада Дрысенская). Дзейнічала на акупіраванай тэр. Дрысенскага, Расонскага і Асвейскага р-наў.

Створана ў жніўні 1942 на базе асобнай групы атрадаў Дрысенскага р-на (група ўваходзіла ў брыгаду «За Савецкую Беларусь», пазней *партызанская брыгада імя К. К. Ракасоўскага*). У 1943 атрад «Бясстрашны» накіраваны ў Баранавіцкую вобл. (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 1-я Баранавіцкая*), атрады імя Калініна і імя Кутузава вылучаны для фарміравання *партызанскай брыгады 2-й Дрысенскай*. У выніку баёў з карнікамі брыгада (729 партызан) у снеж. 1943 выйшла ў сав. тыл, дзе атрад «КІМ» быў расфарміраваны. У студз. 1944 (153 партызаны) вярнулася ў раён баявых дзеянняў, дзе аб'ядналася з партызанамі брыгады, якія асталіся ў варожым тыле. Камандзіры П. Р. Мандрыкін (загінуў), Р. П. *Герасімаў*, А. І. *Грыгор'еў*, камісары Герасімаў, Ф. Ф. Шаблоўскі, А. І. *Лісоўскі*, нач. штаба Ф. А. Рабцаў, С. Ф. Ламінскі, А. А. Шыбаеў, К. П. Кузміцкі.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунцы Полацк — Даўгаўпілс і шашэйных дарогах. Разам з брыгадамі Асвейскай імя Фрунзе і «За Савецкую Беларусь» правялі аперацыю па адначасовым разгроме варожых гарнізонаў на чыг. ст. Боркавічы і Дрыса (кастр. 1942). У студз. 1943 удзельнічалі ў разгроме гарнізона ў в. Вецслабада Латвійскай ССР (гл. *Вецслабадскі бой 1943*). Разграмілі гарнізоны в. Балдыцы (крас. 1943), Кабыльнікі (крас. 1944) Дрысенскага р-на. У студз.— сак., маі — снеж. 1943, лют.— чэрв. 1944 вялі баі супраць карнікаў. На чыг. участку Боркавічы — Бігосава падарвалі і пашкодзілі больш за 2 тыс. рэек.

12.7.1944 брыгада (281 партызан, атрады імя Суворава, імя Кірава, імя Аляксандра Неўскага, імя Леніна) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1964 у в. Маторына Расонскага р-на ў гонар брыгады насыпаны курган, пастаўлены абеліск, у 1970 у в. Дзёрнавічы Верхнядзвінскага р-на — стэла.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 1-я ІМЯ́ К. С. ЗАСЛО́НАВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Аршанскага, Сенненскага, Багушэўскага, Талачынскага, Чашніцкага і Халопеніцкага р-наў.

Створана ў ліп. 1942 на базе атрадаў «Дзядзькі Косці» (К. С. Заслонава, арганізаваны ў лют. 1942 з групы, якая дзейнічала ў Аршанскім камуністычным падполлі), М. П. Харланава, В.П. Комлева і групы аршанскіх падпольшчыкаў. У жн.— вер. 1942 у выніку цяжкіх баёў з ворагам частка партызан з атрадаў В. П. Комлева, А. П. Завадскага, П. Д. Смірнова, «Хуткі» і група М. М. Лушчына выйшла ў сав. тыл. У вер. 1943 атрад імя Суворава вылучаны для арганізацыі *партызанскай брыгады Багушэўскай* (2-га



Партызаны 1-й Беларускай кавалерыйскай брыгады на маршы. Лета 1943.



Група камандзіраў 1-й Віцебскай брыгады (1-га складу).

складу); атрады імя Чапаева, імя Лазо, імя Панамарэнкі, «Малады бальшавік», «Мсцівец», В. П. Комлева вылучаны для арганізацыі *партызанскай брыгады 2-й імя К. С. Заслонава.* Атрад «Камсамолец» у сак. 1944 расфарміраваны. Камандзіры брыгады Заслонаў (загінуў), Л. І. *Сяліцкі,* Б. К. Іваноў; камісары Сяліцкі, М. Ц. Любімцаў, Іваноў; нач. штаба П. П. Лімаеў, В. Р. Палажэнцаў, В. Н. Смірноў.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунках Орша — Смаленск, Віцебск — Полацк, Віцебск — Орша, Орша — Лепель, на шашэйных і грунтавых дарогах Віцебск — Бешанковічы — Камень, Орша — Мінск, Багушэўск — Сянно — Чашнікі, Сянно — Чарэя — Халопенічы, Сянно — Талачын, Орша — Сянно і інш. Разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Горбава-Лёзненскага (13.8.1942), Драголі Руднянскага р-наў Смаленскай вобл. (16.8.1942), вёсках Лагі Аршанскага (25.10.1942), Купаваць, Алексінічы, Расна Сенненскага, Янова Багушэўскага (ліст.— снеж. 1942, студз. 1943) р-наў. У студз.— крас. 1943 у час баявога рэйду па тэр. Сенненскага, Багушэўскага, Віцебскага, Бешанковіцкага, Чашніцкага, Лепельскага і Халопеніцкага р-наў правялі 8 баёў. У крас. 1943 з інш. брыгадамі вывелі са строю чыгунку Орша — Лепель, разграмілі ст. Смаляны, Лемніца,Бурбін, Вятны. У жн. 1943 на чыгунцы Віцебск — Орша падарвалі больш за 1 тыс. рэек. У вер. 1943 вялі цяжкія баі ў Сенненскім р-не на рубяжы в. Асінаўка — Шылькі — Чараўкі — Сінянка — Аўсішча. У кастр. 1943 удзельнічалі ў баях за г. Чашнікі, у лют. 1944 разам з брыгадай Сенненскай — за ўтрыманне апорнага пункта і аэрадрома каля в. Новая Беліца, у маі — чэрв. 1944 — за выхад з варожай блакады на ўчастку воз. Сялява — в. Боркі Халопеніцкага р-на. У чэрв. 1944 з часцямі Чырв. Арміі вызвалялі населеныя пункты.

28.6.1944 брыгада [1826 партызан; атрады імя Кутузава, «Знішчальнік», імя Аляксандра Неўскага, імя Кірава, імя Варашылава, «Перамога», «Дзядзькі Косці», «Дзяніса», «Ураган», «Аршанец», «Грозны», імя Фядосава (камандзір атрада імя Аляксандра Неўскага Ф. Л. Фядосаў загінуў у баі ў крас. 1943), імя Сталіна] злучылася з Чырв. Арміяй. Камандзіру брыгады Заслонаву прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1948 створаны *Аршанскі мемарыяльны музей Героя Савецкага Саюза К. С. Заслонава.* У 1962 у в. Сафіёўка Аршанскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнік, у 1972 каля вёскі, у лесе каля воз. Ардышэва — помнік. У 1964 на месцы гібелі Заслонава і яго таварышаў, каля б. в. Купаваць Сенненскага р-на пастаўлена стэла.


Група партызан 1-й брыгады імя К. С. Заслонава.


Партыйны сход у атрадзе імя Ф. П. Юрчанкі 1-й Мінскай брыгады.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 1-я ІМЯ́ А. В. СУВО́РАВА** (у сак.— ліп. 1943 партызанская брыгада «Спартак»). Дзейнічала на акупіраванай тэр. Пліскага, Дунілавіцкага, Шаркоўшчынскага, Дзісенскага р-наў.

Створана ў сак. 1943 з групы партызан атрада «Спартак» (створаны ў маі 1942). Пры фарміраванні брыгады створаны атрады імя Варашылава, «Бальшавік» і імя Чкалава. Камандзіры П. А. *Хомчанка,* Т. К. Раеўскі (в. а.), А. Ц. Кляцоў (в. а.); камісар М. Я. *Усаў;* нач. штаба Ф. Дз. Піўкін, Раеўскі, Кляцоў (в. а.).

Партызаны ўдзельнічалі ў «рэйкавай вайне» на чыг. участку Крулеўшчына — Варапаева; толькі ў жн. 1943 падарвалі каля 300 рэек. У крас.— маі 1944 удзельнічалі ў абароне Полацка-Лепельскай партыз. зоны і прарыве варожай блакады. 1—4.7.1944 брыгада (225 партызан; атрады імя Варашылава, «Бальшавік», імя Чкалава, «Камсамолец») злучылася з Чырв. Арміяй. У 1970 у в. Ліпава Глыбоцкага р-на ў гонар брыгады пастаўлена стэла.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 1-я КЛІ́ЧАЎСКАЯ,** гл. ў арт. *Партызанскі полк 208-ы імя І. В. Сталіна.*

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 1-я МІ́НСКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Пухавіцкага, Мінскага, Чэрвеньскага і Рудзенскага р-наў.

Створана ў жн. 1942 на базе атрадаў М. М. Джагарава (пазней «Камсамол», арганізаваны ў крас. 1942), А. І. Дрантусава (потым імя Ф. П. Юрчанкі, арганізаваны ў маі 1942), У. А. Чармянёва (арганізаваны ў маі 1942), М. Ф. Калуцкага (арганізаваны ў снеж. 1941, у снеж. 1942 аб'яднаны з атрадам Чармянёва ў атрад імя Кірава). Пазней у саставе брыгады дзейнічала 10 атрадаў. З яе асабовага складу дадаткова былі сфарміраваны партыз. брыгады імя Кірава і імя газ. «Праўда». Камандзіры М. Х. *Балан,* Е. А. *Іваноў;* камісары І. В. Чэпелеў (загінуў), Г. Н. Раманаў, Іваноў, В. П. Сушкевіч; нач. штаба Джагараў, К. П. Кулеш.

Партызаны ў студз. 1944 на чыгунцы Мінск — Асіповічы падарвалі 19 эшалонаў, у «рэйкавай вайне» перабілі 1285 рэек. Разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Ляды Смалявіцкага (гл. *Лядскі бой 1943*) і Дукора Рудзенскага р-наў. З часцямі Чырв. Арміі ўдзельнічалі ў вызваленні Чэрвеня, Смілавіч, Рудзенска. 29.6—3.7.1944 трымалі абарону на 18-кіламетровым участку.

3.7.1944 брыгада [1222 партызаны, ат-

рады імя Юрчанкі (камандзір атрада Ф. П. Юрчанка загінуў), «Камсамол», імя Суворава, імя Чкалава] злучылася з Чырв. Арміяй. У 1975 у в. Іванічы Чэрвеньскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнік.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 1-я СМАЛЕ́НСКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Духаўшчынскага і Руднянскага р-наў Смаленскай вобл., Сенненскага, Талачынскага, Чашніцкага, Лепельскага, Халопеніцкага і Крупскага р-наў БССР.

Створана ў сак. 1942 у Смаленскай вобл. пад назвай 1-ы батальён. У маі 1942 батальён перайменаваны ў партыз. брыгаду 1-ю. У чэрв. частка атрадаў вылучана для арганізацыі партыз. брыгады 3-й. У кастр.— ліст. 1942 у час карнай экспедыцыі праціўніка частка атрадаў брыгады рассеяна, астатнія ў канцы ліст. выйшлі ў сав. тыл, дзе нанава створана брыгада. У лют. 1943 брыгада (134 партызаны) прыбыла ў варожы тыл, з жн. 1943 дзейнічала на тэр. Віцебскай вобл., падначальвалася БШПР. Камандзіры Ф. Я. Апрэтаў (загінуў), А. І. Яўстратаў. М. П. Пятровічаў, У. І. Цалішчэўскі; камісары А. Р. Багдановіч, Пятровічаў, І. Х. *Вайзулін*; нач. штаба Яўстратаў, Дз. М. Несцераў (в. а.), А. В. Прусакоў (в. а.), С. Дз. Жылін.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 2-я БЕЛАРУ́СКАЯ ІМЯ́ П. К. ПАНАМАРЭ́НКІ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Мехаўскага, Гарадоцкага і Суражскага р-наў.

Створана ў маі 1942 на базе Мехаўскага партыз. атрада (дзейнічаў з ліп. 1941). У жн. 1942 атрад 3-і накіраваны ў Вілейскую вобл. (гл. ў арт. *Партызанская брыгада «Спартак»*), у брыгадзе нанава створаны атрад 3-і. Камандзіры брыгады: М. І. *Дзячкоў*, Я. Н. *Барсукоў*, М. Ф. Сафронаў; камісары: К. Ф. Волкаў, Барсукоў, Сафронаў; нач. штаба: І. С. Скуматаў, П. Дз. Тарачэнка. 4.3.1943 пасля цяжкіх баёў з карнікамі частка брыгады (597 партызан, атрады імя Суворава, «Мсцівец», імя Варашылава, «Смерць фашызму», імя Кузьмы Мініна, імя Кутузава, імя Чапаева) выйшла за лінію фронту, атрады расфарміраваны. У сак. 1943 з груп, якія засталіся ў варожым тыле, створаны новыя атрады.

Партызаны ўчынялі дыверсіі на чыгунках Віцебск — Невель, Полацк — Невель, Віцебск — Полацк, на шашэйных і грунтавых дарогах. У маі — снеж. 1942 разгромілі варожыя гарнізоны ў в. Вадзянікі, Шмані, на ст. Бычыха, Езярышча, б. Мехаўскай

**РУ́СКАЯ ІМЯ́ П. К. ПАНАМАРЭ́НКІ** (2-га складу). Дзейнічала на акупіраванай тэр. Бешанковіцкага, Талачынскага, Чашніцкага і Крупскага р-наў. Створана ў вер. 1943. Камандзір М. І. *Дзячкоў*, нач. штаба Р. А. Махоткін. Партызаны наносілі ўдары па ворагу на шашэйных і грунтавых дарогах Бешанковічы — Лепель, Чашнікі — Бешанковічы, Чашнікі — Сянно, Коханава — Абольцы і інш. У сак. 1944 сумесна з 1-м атрадам брыгады М. П. Гудкова разграмілі варожы гарнізон у в. Шэйка Крупскага р-на. У маі — чэрв. 1944 удзельнічала ў абароне *Сенненска-Аршанскай партызанскай зоны* і прарыве блакады; у час злучэння з часцямі Чырв. Арміі рамантавалі дарогі, вылучылі праваднікоў у раён баявых дзеянняў, удзельнічалі ў ліквідацыі варожых груп. 27.6.1944 брыгада (394 партызаны, атрады 1-ы, 2-і, 3-і, 4-ы і 5-ы) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 2-я ДРЫ́СЕНСКАЯ.** Дзейнічала на акупіра-



Камандзір 1-й Мінскай партызанскай брыгады Е. А. Іваноў уручае камандзіру атрада «Камсамол» П. С. Вараб'ёву пераходны Чырвоны сцяг.



Мітынг партызан 1-й Мінскай брыгады і насельніцтва. 1943.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунках Смаленск — Віцебск, Віцебск — Орша, Смаленск — Орша і на шашэйных дарогах. У жн.— ліст. 1942 вялі баі з карнікамі ў Духаўшчынскім р-не, нападалі на варожыя гарнізоны ў в. Карбанава і пас. Гальнкі Руднянскага р-на Смаленскай вобл. (люты 1943), у в. Вадапоева Бешанковіцкага (кастр. 1943), Старая Пярэсіка (ліст. 1943) і Чарэеўка (сак. 1944) Халопеніцкага, Забор'е Лепельскага (люты 1944) р-наў. У крас.— чэрв. 1944 вялі баі супраць карнікаў у раёне шашы Лепель — Барысаў. У час наступлення Чырв. Арміі аднавілі 6 мастоў на дарозе Лукомль — Вялікія Хальнявічы. 26.6.1944 брыгада (390 партызан; атрады 1-ы, 3-і, 4-ы 2-га складу, 5-ы і 6-ы) злучылася з Чырв. Арміяй.

МТС Мехаўскага, Смалоўка, Бяскатава Гарадоцкага, Чурылава Усвяцкага р-наў Смаленскай вобл. У вер.— кастр. 1942, лютым, маі — чэрв. 1943 вялі баі супраць карнікаў, асабліва жорсткія ў лют. 1943 каля в. Цары, Камары, Будніца Мехаўскага р-на. У жн. 1943 разграмілі варожы гарнізон у в. Дуброва Гарадоцкага р-на. У жн.— вер. 1943 на чыгунцы Віцебск — Невель падарвалі больш за 1 тыс. рэек.

У кастр.— снеж. 1943 брыгада (274 партызаны; атрады імя Чапаева 1-ы, «Мсцівец» 2-і, 3-і, 4-ы) паатрадна злучылася з Чырв. Арміяй. У 1972 у в. Бярозаўка Гарадоцкага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнік, у 1979 каля д. Дуброва, у 1965 на чыг. ст. Бычыха, у 1975 у в. Смалоўка Гарадоцкага р-на ўстаноўлены мемар. дошкі.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 2-я БЕЛА-**

най тэр. Дрысенскага і Расонскага р-наў.

Створана ў кастр. 1943 на базе атрадаў імя Калініна і імя Кутузава, вылучаных з *партызанскай брыгады 1-й Дрысенскай*. У снеж. 1943 пасля цяжкіх баёў з карнікамі брыгада (245 партызан, атрады 1-ы і 2-і Калінінскія) выйшла ў сав. тыл. У студз. 1944 камандаванне брыгады з асабовым складам (92 партызаны) вярнулася ў раён баявых дзеянняў. Камандзір І. М. Кухарэнка, камісар І. В. Хут, нач. штаба А. К. Касач.

Партызаны рабілі дыверсіі на чыгунцы Полацк — Даўгаўпілс, шашэйных і грунтавых дарогах Полацк — Даўгаўпілс, Асвея — Полацк, Клясціцы — Полацк, Расоны — Янкавічы, Боркавічы — Дрыса і інш. У ліст.— снеж. 1943 вялі баі з карнікамі, утрымлівалі абарону на р. Дрыса і Нішча каля в. Латышова, Залессе, Аляк-

сееўцы, Пярэкі, Дзёрнавічы, Жукі. У лют. і ліп. 1944 разграмілі гарнізоны ворага ў в. Зялёнаўшчына і Пярэкі Дрысенскага р-на. У крас. 1944 у час карнай экспедыцыі брыгада прарвала варожую блакаду каля воз. Акуневец у Расонскім р-не. У «рэйкавай вайне» на чыг. участку Баравуха — Свольна падарвалі больш за 700 рэек. У ліп. 1944 разам з часцямі Чырв. Арміі праследавалі ням.-фаш. войскі ў раёне в. Смалоўка, Шахавіца, Рудня і Юзафова да р. Свольна.

12.7.1944 брыгада [230 партызан, атрады 1-ы Калінінскі (б. імя Калініна), 2-і Калінінскі (б. імя Кутузава), 3-і Калінінскі] злучылася з Чырв. Арміяй. У 1964 каля в. Новы Лад (б. Верасна) Верхнядзвінскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнік.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 2-я ІМЯ́ К. С. ЗАСЛО́НАВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Аршанскага, Сенненскага, Талачынскага, Лепельскага, Чашніцкага і Халопеніцкага р-наў.

Створана ў вер. 1943 на базе атрадаў імя Чапаева, імя Лазо, імя Панамарэнкі, «Малады бальшавік», «Мсцівец», В. П. Комлева, вылучаных з *партызанскай брыгады 1-й імя К. С. Заслонава.* Камандзір В. П. *Комлеў*; камісар В. Е. *Бяляеў*; нач. штаба В. Р. Палажэнцаў, М. М. Бальшуноў (загінуў), М. С. Загер.

Партызаны ўчынялі дыверсіі на чыг. участках Орша — Мінск, Віцебск — Орша, на шашэйных і грунтавых дарогах Віцебск — Лепель, Віцебск — Сянно, Сянно — Багушэўск, Лепель — Чашнікі і інш. 21 — 24.10.1943 разам з брыгадай «Аляксея» (пазней імя Данукалава) удзельнічалі ў штурме варожага гарнізона ў в. Бачэйкава, разграмілі гарнізон у в. Слабодка Бешанковіцкага р-на. У аперацыі «рэйкавая вайна» на чыгунках Багушэўск — Орша, Талачын — Орша падарвалі больш за 300 рэек. У студз.— лют. 1944 вялі баі за в. Вял. Вядрэнь і Гурына, разграмілі варожы гарнізон у в. Луг Чашніцкага р-на, вялі баі каля вёсак Доўгае, Люлюкі Бешанковіцкага, Лізуны Багушэўскага, Мажулева Сенненскага р-наў. У крас.— маі 1944 нанеслі ўдары па гарнізонах у в. Маковічы, Грачэвічы і Чэрцы Лепельскага р-на, актывізавалі дыверсійныя дзеянні на чыгунцы Орша — Мінск каля ст. Талачын і на чыг. участку Орша — Коханава. З брыгадай Сенненскай і 2-й Бел. імя Панамарэнкі ў ноч на 8.6. 1944 у час блакады прарвалі лінію варожай абароны каля в. Адамаўка — Сялец Халопеніцкага р-на. У чэрв. 1944 разам з часцямі Чырв. Арміі вялі баі на рубяжы вёсак Пасынкі, Кажары і Гілі Чашніцкага р-на, разграмілі варожы гарнізон у в. Слабада Халопеніцкага р-на.

27.6.1944 брыгада [905 партызан; атрады імя Чапаева, імя Лазо, імя Калініна (1-ы, да кастр. 1943 атрад Комлева), імя Панамарэнкі, «Мсцівец», «Малады бальшавік», «Кастрычнік»] злучылася з Чырв. Арміяй. У 1975 у в. Грынькі Чашніцкага р-на ў гонар брыгады ўстаноўлена мемар. дошка.



Група партызан 1-й Мінскай брыгады, узнагароджаных ордэнамі і медалямі СССР. Злева направа: 1-ы рад — М. А. Уртаеў (асецін), А. У. Урбаеў (бурат), камандзір брыгады М. Х. Балан (украінец), М. Амангалееў (казах), Г. Гусеў (рускі); 2-і рад — Л. М. Палухін (рускі), А. І. Кусля (беларус), Б. А. Філімонаў (беларус).



Група партызан 2-й брыгады імя К. С. Заслонава. Вясна 1943.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 2-я ІМЯ́ А. В. СУВО́РАВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Смаргонскага, Куранецкага, Маладзечанскага р-наў.

Створана ў Расонскім р-не ў ліп. 1943 на базе атрадаў імя Молатава (арганізаваны ў чэрв. 1942), «Бясстрашны» (чэрв. 1942), імя М. Ф. Ватуціна (ліп. 1943). Камандзіры А. А. Астрэйка, А. П. *Аўсяннікаў*; камісар В. І. *Данаў*; нач. штаба М. І. Філіпаў.

Баявыя аперацыі партызаны праводзілі на шашэйных і грунтавых дарогах. Правялі рэйд з Расонскага ў Смаргонскі р-н. У лютым 1944 правялі бой з ням. паліцыяй, якая рыхтавалася адправіць насельніцтва з Смаргонскага р-на на катаржныя работы ў Германію. У сак. 1944 удзельнічалі ў баі супраць гарнізона в. Кабыльнік. У чэрв. 1944 на чыгунцы Смаргонь — Маладзечна падарвалі больш за 630 рэек. Да прыходу Чырв. Арміі вызвалілі в. Войстам, пабудавалі 12 мастоў, 2 пераправы. 2.7.1944 брыгада (506 партызан; атрады 1-ы імя Молатава, 3-і «Бясстрашны», 5-ы імя Ватуціна, 7-ы імя Жукава) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 2-я КАЛІНКАВІЦКАЯ ІМЯ́ М. В. ФРУ́НЗЕ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Калінкавіцкага р-на.

Створана ў кастр. 1943 на базе 4-га Калінкавіцкага атрада імя Фрунзе (арганізаваны ў чэрв. 1943), вылучанага *партызанскай брыгадай 99-й Калінкавіцкай.* Камандзір брыгады К. М. Марозаў, камі-

сар І. М. Бяляй, нач. штаба А. Р. Барысенка.

Партызаны праводзілі баявыя аперацыі на чыгунках і шашэйных дарогах. У чэрв. 1943 удзельнічалі ў баях супраць карнай аперацыі, разграмілі варожы гарнізон у в. Тульгавічы, узарвалі лесапільны з-д у Калінкавічах. 4.9.1943 на Прыпяці затапілі варожы параход. Памагалі часцям Чырв. Арміі ў наступленні: абстралявалі аэрадром, на які прынята 35 самалётаў; па заданню 61-й арміі 19.11.1943 разбілі варожы гарнізон, што абараняў чыг. ст. Аўрамаўская; пабудавалі 2 пераправы; удзельнічалі ў вызваленні в. Гліншча Хойніцкага, Агароднікі Калінкавіцкага р-наў. 24.11.1943 брыгада (924 партызаны; атрады 1-ы, 2-і, 3-і, 4-ы, 5-ы, 6-ы) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1967 у в. Маклішча Хойніцкага р-на ў гонар брыгады ўстаноўлена мемар. дошка.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 2-я КЛІ́ЧАЎСКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Клічаўскага і сумежных раёнаў.

Створана ў ліст. 1942 на базе 277-га 537, 100-га атрадаў і Кіраўскага спецатрада, у сак. 1943 арганізаваны атрады 277-А і 227-Б, у крас. 1943 уключаны 278-ы атрад. Камандзіры С. Ц. Токараў, І. З. *Ізох*; камісары Ізох, Г. Л. *Комар*, А. Я. Шчыслёнак, К. Ф. Канавалаў; нач. штаба І. М. Мароз, Токараў.

Партызаны вялі баі па абароне і расшырэнню партыз. зоны. У крас. 1943 разграмілі гарнізоны ў в. Глыбокі Брод, Сямікаўка, Макаўка Бялыніцкага р-на (гл. ў арт. *Бялыніцкія аперацыі 1943*), удзельнічалі ў разгроме варожага гарнізона ў в. Суша, у маі ў прарыве блакады каля в. Усакіна Клічаўскага р-на. Наносілі ўдары па варожых камунікацыях Прыяміна — Крупкі, Магілёў — Жлобін, Асіповічы — Жлобін. У маі 1943 брыгада (657 партызан) расфарміравана.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 2-я МІ́НСКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Пухавіцкага, Мінскага, Старадарожскага, Рудзенскага р-наў.

Створана ў вер. 1942 на базе атрадаў «Сокал», М. Цярэніка (пазней імя Суворава), імя Чапаева, імя Кутузава. На базе атрадаў, вылучаных з брыгады, створаны *партызанская брыгада імя В. І. Чапаева, партызанская брыгада імя П. К. Панамарэнкі, партызанская брыгада 3-я Мінская імя С. М. Будзённага.* Камандзіры С. М. *Іваноў*, М. Р. *Андрэеў*; камісары А. М. Міхайлаў, П. П. *Ванкевіч*; нач. штаба І. Н. Цішчанка, Ф. А. Раткевіч.

Партызаны ў 2-й пал. 1943 падарвалі 1 тыс. рэек. 14.10.1942 на дарозе Пухавічы — Омельна знішчылі 9 аўтамашын, больш за 70 гітлераўцаў. У студз. — лютым 1943, чэрв. 1944 вялі баі з карнікамі. Разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Омельна Пухавіцкага і Дражна Старадарожскага р-наў. Вывелі са строю электрастанцыі ў Пухавічах, Седчы. У кастр. 1942 — крас. 1943 знішчылі 43 масты. 28.6.1944 захапілі пераправу цераз р. Пціч і ўтрымлівалі яе да падыходу Чырв. Арміі. 29.6.1944 брыгада [1341 партызан; атрады імя Кутузава (арганізаваны ў крас. 1942), імя Суворава (арганізаваны ў чэрв. 1942 на базе партыз. груп, якія дзейнічалі з лют. 1942, і партызан атрада Г. Назарава, што дзейнічаў з ліп. 1941 і быў рассеяны ў баях з карнікамі ў Пухавіцкім р-не), імя Панамарэнкі, імя Молатава] злучылася з Чырв. Арміяй. У в. Клятное Пухавіцкага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнік.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 2-я УША́ЦКАЯ ІМЯ́ П. К. ПАНАМАРЭ́НКІ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Ушацкага і Лепельскага р-наў.

Створана ў ліп. 1943 на базе атрадаў, вылучаных партыз. брыгадай «Смерць фашызму» (пазней *партызанская брыгада імя В. І. Чапаева*). У жн. 1943 у брыгадзе створаны і накіраваны ў Вілейскую вобл. партыз. атрад пад камандаваннем С. Я. Косава (пазней 1-ы атрад *партызанскай брыгады імя М. І. Калініна*). Камандзір брыгады М. В. *Уткін*; камісар М. А. *Цябут*, нач. штаба А. І. Вілюгін.

Партызаны ўчынялі дыверсіі на чыгунках, шашэйных і грунтавых дарогах у раёне дыслакацыі. У ліп.—жн. 1943 разграмілі варожы гарнізон у в. Бачэйкава (гл. *Бачэйкаўскія баі 1943*) Бешанковіцкага р-на, напалі на гарнізон у в. Пышна (гл. *Пышнянскія баі 1943*) Лепельскага р-на, удзельнічалі ў *Лепельскай аперацыі 1943* (гл. таксама *Лепельскі бой 1943*), разграмілі ў студз.—лютым 1944 фаш. гарнізоны ў в. Поплаўкі, Аўгустова, Сукнёўшчына Лепельскага р-на. Вялі абарончыя баі каля в. Кісялёва (люты



Партызаны брыгады імя А. В. Суворава 2-й знаёмяцца з падзеямі на франтах. З картай камандзір брыгады А. П. Аўсянікаў (у цэнтры), начальнік штаба М. І. Філіпаў, камісар брыгады В. І. Данаў.



Група каманднага саставу 2-й Калінкавіцкай партызанскай брыгады імя М. В. Фрунзе. 1943.

1944) Ушацкага р-на, у крас.— маі 1944 удзельнічалі ў баях супраць карнай экспедыцыі на тэр. *Полацка-Лепельскай партызанскай зоны,* утрымлівалі абарону на ўчастках в. Стараселле — Вацлавова, Завыдрына — Істопішча — Жары, Слабада — Кавалеўшчына — Завячэлле, каля в. Вялічкаўцы, Гара, Кублішчына Ушацкага р-на. У «рэйкавай вайне» на чыгунцы Полацк — Маладзечна падарвалі больш за 5 тыс. рэек.

У ліп. 1944 брыгада [1033 партызаны; атрады імя Чапаева, імя Кірава, імя Свярдлова, імя Грызадубавай, імя Даватара, імя Суворава, імя Галоўчанкі (нач. штаба атрада Ю. А. Галоўчанка загінуў у баі 25.7.1944), «За Радзіму», 9-ы] злучылася з Чырв. Арміяй. Брыгада ўвекавечана ў мемар. комплексе *«Прарыў»* у ліку 16 партыз. брыгад. У 1976 у в. Рубанікі Ушацкага р-на ў гонар брыгады ўстаноўлена мемар. дошка.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 3-я.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Бялыніцкага, Бярэзінскага, Круглянскага і Крупскага р-наў.

Створана ў чэрв. 1942 на базе асобнага атрада А. Я. Марчанкі (створаны ў маі 1942 з груп Полацкага раённага камуніст. падполля). У чэрв. 1942 у брыгаду ўвайшоў атрад Я. Х. Сташкевіча, створаны ў крас. 1942. У ліп. 1942 з брыгады ў Вілейскую вобл. вылучаны 6-ы атрад (камандзір Я. М. Букараў), які ў час перамяшчэння быў расфарміраваны. У ліп. 1943 вылучаны атрад 1-ы (пазней атрад 3-і «Бясстрашны» *партызанскай брыгады 2-й імя А. В. Суворава*). Камандзіры А. Я. *Марчанка,* У. В. Жыганаў (в. а.); камісары Я. А. Казлоў (загінуў), М. А. *Новікаў,* Ф. Т. *Шэдаў*; нач штаба Т. К. Раеўскі, Жыганаў.

Партызаны ў «рэйкавай вайне» на чыг. участках Полацк — Невель і Віцебск — Полацк падарвалі больш за 1,8 тыс. рэек. У чэрв. 1942 вялі баі за в. Вял. Сітна і Кавалі, у кастр. за б. саўгас «Палата», у жн. разграмілі апорны пункт ворага ў в. Труды Полацкага р-на. У снеж. 1942 — лют. 1943 удзельнічалі ў баях супраць карнікаў, вялі баі каля в. Жукавічы, Гараватка, Труханўка, Забароўе, Забалоцце, Гразнае Полацкага р-на, разграмілі гарнізон ворага ў в. Верхачэнне. У лютым — маі 1943 вялі абарончыя баі каля в. Маторына, Лешня, Юзафова Расонскага р-на, на рубяжы в. Арлея, Вял. Сітна, Красамай, Гараватка Полацкага р-на, напалі на варожы гарнізон у в. Узніца і на калону войск каля в. Рудня, у крас. падарвалі мост цераз р. Палата каля в. Юравічы Полацкага р-на. У ліст. 1943 нанеслі ўдары па пераправах цераз р. Дрыса каля в. Калюціна, Масколькі Расонскага р-на. 15.11.1943 брыгада (1126 партызан; атрады 1-ы, 2-і, 3-і, 4-ы, 5-ы, 6-ы, 7-ы) злучылася з Чырв. Арміяй.



Камандзір 2-й Мінскай партызанскай брыгады С. М. Іваноў (каля карты справа) падводзіць вынікі баявой аперацыі. Люты 1943.

Створана 1.6.1944 на базе 3-га батальёна *партызанскага палка «Трынаццаць»*, дзейнічала ў партыз. злучэнні *«Трынаццаць»*. Камандзір П. І. Звяздаеў, камісар В. А. Самсонаў, нач. штаба А. М. Лебедзеў.

Партызаны ўдзельнічалі ў аперацыі «рэйкавая вайна»: асн. ўдары наносілі на чыг. участку Барысаў — Орша, каля ст. Бобр. 20.6.1944 падарвалі 239 рэек. 30.6.1944 брыгада (атрады 4-ы, 5, 6-ы) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 3-я БЕЛАРУ́СКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Полацкага і Расонскага р-наў.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 3-я БЯРЭ́ЗІНСКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Бярэзінскага, Бялыніцкага і Барысаўскага р-наў.

Створана ў ліст. 1942 у складзе 345-га, 128, 130, 120-га атрадаў, у сак. 1943 у брыгадзе арганізаваны 340-ы атрад. Камандзір С. А. *Яроцкі,* камісар М. Ф. Спяранскі, нач. штаба Г. І. Георгіеўскі. У крас. 1943 на базе 128-га атрада, вылучанага з брыгады, створана *партызанская брыгада 14-я Цемналеская.*

Партызаны 13.4.1943 разграмілі гарнізон ворага ў в. Журавок (гл. ў арт. *Бялыніцкія аперацыі 1943*), у маі вялі абарончыя баі. У маі 1943 расфарміравана, яе атрады перададзены ў падпарадкаванне Магілёўскай (абласной) ваенна-аператыўнай групе.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 3-я МІ́НСКАЯ ІМЯ́ С. М. БУДЗЕННАГА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Пухавіцкага, Рудзенскага, Старадарожскага, Мінскага р-наў.

Створана ў чэрв. 1943 на базе атрадаў імя Варашылава (арганізаваны ў лют. 1942) і імя Шчорса, вылучаных з *партызанскай брыгады 2-й Мінскай.* Камандзір брыгады Р. П. Мыснік, камісар У. Е. Крайко, нач. штаба Я. М. Гіро.

Партызаны праводзілі баявыя аперацыі на варожых камунікацыях Мінск — Пухавічы, Мінск — Койданава, Мінск — Слуцк. У «рэйкавай вайне» падарвалі 10,3 км рэек. Дыверсійная група на чале з Ф. А. *Бачылам* пусціла пад адхон 28 варожых эшалонаў. Партызаны знішчылі 27 мастоў, 72 аўтамашыны, 55 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі. 31.6.1943 на шашы Мінск—Слуцк спалілі 8 аўтамашын, знішчылі больш за 50 гітлераўцаў, захапілі каля 150 вінтовак, аўтаматаў і пісталетаў. 1—5.6.1943 вялі баі з карнікамі. 25.6.1944 разбілі варожую калону. 5—6.7.1944 разам з Чырв. Арміяй удзельнічалі ў ліквідацыі групоўкі ворага ў раёне в. Анопаль і Самалёва Мінскага р-на.

2.7.1944 брыгада [1313 партызан; атрады імя Варашылава, «Непераможны» (створаны ў сак. 1942), імя Шчорса, імя Лазо, імя 25 гадоў ВЛКСМ] злучылася з Чырв. Арміяй. У 1967 у в. Селецк Пухавіцкага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнік.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 4-я БЕЛАРУ́СКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Мехаўскага, Гарадоцкага, Расонскага, Дзісенскага, Міёрскага, Шаркоўшчынскага р-наў БССР, Невельскага р-на Калінінскай вобл.

Створана ў чэрв. 1942 на базе асобнага атрада В. А. Сазыкіна і групы, вылучанай партыз. брыгадай 3-й Беларускай. У кастр. 1943 брыгада перадыслацыравана ў Вілейскую вобл. Камандзіры брыгады А. А. Астрэйка, Н. Е. *Фалалееў,* Я. Х. Сташкевіч (загінуў), Сазыкін, М. І. *Ярмак* (загінуў), Дз. І. Дзюмін; камісары Я. І. Касаткін, Г. С. *Пятроў,* У. К. *Шэндзелеў,* Ф. М. *Расюк*; нач. штаба Фалалееў, А. Г. Собалеў (загінуў), А. П. Плотнікаў, П. І. Шарыпаў.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунках Невель—Віцебск, Полацк—Невель, Друя — Шаркоўшчына, Варапаева — Глыбокае, у «рэйкавай вайне» на чыгунках Полацк—Невель, Варапаева — Глыбокае падарвалі больш

за 600 рэек. Разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Змяіна (жн. 1942), Каменка (снеж. 1942), Кавалі, Завань (ліп. 1943) Мехаўскага, Ліхачы (кастр. 1943), Леанполь (снеж. 1943) Дзісенскага, Жыгулі, Узмёны (люты 1944) Міёрскага, Грыгароўшчына (сак. 1944) Шаркоўшчынскага р-наў і інш. У лютым 1944 напалі на гарнізон у Дзісне. Вялі баі з праціўнікам каля в. Горы (жн. 1942) Расонскага, Сурміно, Скакуны (люты 1944) Міёрскага р-наў. У ліст.—снеж. 1942, студз.— маі 1943, маі—чэрв. 1944 вялі абарончыя баі супраць карнікаў. У ноч на 4.6.1944 прарвалі блакаду ў раёне в. Менюхі Міёрскага р-на і выйшлі з акружэння. У вер.—кастр. 1943 брыгада зрабіла баявы рэйд з Расонскага р-на ў Дзісенскі. 3.7.1944 брыгада [609 партызан; атрады 1-ы, 2-і (2-га складу; 2-і атрад першага складу ў баях у крас. 1943 рассеяны), 3-і, 4-ы, 5-ы, 6-ы] злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 4-я КЛІ́ЧАЎСКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Клічаўскага і сумежных з ім раёнаў.

Створана ў ліст. 1942 на базе 152-га, 720, 115-га атрадаў і Клічаўскага спецатрада. Камандзіры Ф. С. *Тарасевіч*, М. Дз. Грыцан; камісары Г. А. *Храмовіч*, С. М. *Ігумнаў*; нач. штаба І. Ф. Рудаў.

Партызаны вялі баі з ворагам за ўтрыманне і расшырэнне партыз. зоны, удзельнічалі ў разгроме гарнізона ў в. Суша (крас. 1943). Асн. ўдар наносілі на чыг. участках Асіповічы — Жлобін, Быхаў — Жлобін; 10.2—20.3.1943 на чыг. участку Быхаў — Жлобін падарвалі 4 эшалоны. У маі 1943 брыгада расфарміравана, атрады 152-і і 115-ы вылучаны ў асобна дзейныя.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 5-я.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Бялыніцкага, Круглянскага, Бярэзінскага, Шклоўскага і Крупскага р-наў.

Створана 1.6.1944 на базе 5-га батальёна *партызанскага палка «Трынаццаць»*, уваходзіла ў партыз. злучэнне *«Трынаццаць»*. Камандзір І. Т. Мацяш, камісар У. К. Шаўчук, нач. штаба В. М. Пракапенкаў.

Партызаны вялі баі з ворагам, ратавалі мірнае насельніцтва ад загубы, удзельнічалі ў аперацыі «рэйкавая вайна». Асн. ўдар наносілі на чыг. участку Барысаў — Орша. 20.6.1944 каля ст. Бобр падарвалі каля 400 рэек. 29.6.1944 брыгада (494 партызаны, атрады 7-ы, 8, 9, 10-ы) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 5-я КЛІ́ЧАЎСКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Клічаўскага, Быхаўскага, Кіраўскага і Бялыніцкага р-наў.

Створана ў ліст. 1942 у складзе 620-га, 760, 61, 25-га атрадаў. Камандзір М. С. *Міхалап*; камісары Міхайлаў, А. А. *Хачатран*; нач. штаба І. Б. Рутман, В. П. Дрожнікаў.

Партызаны зрывалі перавозкі ворага на чыг. участках Магілёў — Рагачоў, Магілёў — Шклоў, Магілёў — Асіповічы. 10.2—20.3.1943 пусцілі пад адхон 3 эшалоны. У крас. 1943 удзельнічалі ў разгроме варожых гарнізонаў у Клічаве, в. Суша Клічаўскага, Дручаны Бялыніцкага р-наў (гл. ў арт. *Бялыніцкія аперацыі 1943*). У маі 1943 вялі баі з карнікамі. У маі 1943 брыгада расфарміравана, атрад 760-ы перададзены 6-й Магілёўскай брыгадзе, атрады 620-ы, 25, 61-ы вызначаны як асобна дзейныя.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 5-я КЛЯЦНЯ́НСКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Арлоўскай вобл., Касцюковіцкага і Хоцімскага р-наў БССР.

Створана ў сак. 1943 на базе партыз. атрадаў «Бясстрашны» (арганізаваны ў ліп. 1941) і «За Савецкую Беларусь» (арганізаваны ў крас. 1942). Камандзір А. М. Яромін; камісары С. І. Сядоў, П. С. Кляцко (в. а.); нач. штаба М. Г. Мураўёў.

У лютым — ліп. 1943 партызаны правялі больш за 100 баёў. 18.11.1942 разграмілі чыг. ст. Журбін. У студз. 1943 вялі баі з карнікамі за выхад з блакады. У крас. разбілі ахову моста цераз р. Сураў на дарозе Хоцімск — Касцюковічы. У жн. і вер. 1943 на чыг. участку Камунары — Журбін — Сураж падарвалі больш за 1,5 тыс. рэек. Разам з часцямі Чырв. Арміі вялі баі супраць варожых груп на дарозе Чэрыкаў — Краснаполле. 29.9.1943 брыгада (1488 партызан, батальёны 1-ы, 2-і, 3-і, 4-ы) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 6-я МАГІЛЁЎСКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Бялыніцкага і Магілёўскага р-наў.

Створана ў ліст. 1942 у складзе 121-га, 425, 600-га асобных атрадаў. Камандзір К. М. *Белавусаў*; камісар З. П. Гапонаў; нач. штаба С. Г. *Сідарэнка-Салдаценка*, Д. І. Фядотаў.

Партызаны вялі баі па ачышчэнню тэр. дыслакацыі ад ням.-фаш. захопнікаў. 11.2.1943 разграмілі варожы гарнізон у в. Пашкава Магілёўскага р-на (гл. ў арт. *Пашкоўскі бой 1943*). 13.4.1943 з інш. брыгадамі ўдзельнічалі ў разгроме апорных варожых пунктаў у в. Заполле, Забавы і Бахані Бялыніцкага р-на (гл. ў арт. *Бялыніцкія аперацыі 1943*). У студз. і маі 1943 змагаліся супраць карнікаў, з баямі выходзілі з блакады. У ліст. 1942 падарвалі чыг. мост цераз р. Друць, наносілі ўдары па чыгунцы Магілёў — Рагачоў, у чэрв. 1943 падарвалі 4 эшалоны. У ліп. 1943 брыгада (1377 партызан) расфарміравана. Атрады 113-ы і 121-ы перададзены Магілёўскай ВАГ, 600-ы, 122-і «За Радзіму» і 760-ы імя М. Беразоўскага — Бялыніцкай ВАГ.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 8-я.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Ганцавіцкага, Целяханскага, Быценскага, Івацэвіцкага, Косаўскага р-наў.

Створана ў Круглянскім р-не ў снеж. 1943. Уключыла атрады 36-ы (пачаў фарміравацца ў ліп. 1941 у в. Хватоўка Бялыніцкага р-на, афармлены ў крас. 1942), 40-ы (арганізаваны ў маі 1942), 12-ы (арганізаваны ў чэрв. 1942), 15-ы (арганізаваны ў ліп. 1942). У снеж. 1943 — студз. 1944 зрабіла рэйд у Ганцавіцкі, потым у Косаўскі р-ны. Камандзір С. Г. *Жунін*, камісар В. А. *Пятроў*, нач. штаба К. І. Мацеж.

Паводле задачы, пастаўленай аператыўнай групай пры ваен. савеце 61-й арміі, брыгада дзейнічала ў тыле войск праціўніка, якія займалі пазіцыі перад часцямі 61-й арміі 1-га Бел. фронту. Наносіла ўдары па варожых камунікацыях, зрывала перавозкі, скоўвала манеўр войск 2-й ням. арміі. Метадам дыверсій і засад знішчала жывую сілу праціўніка. Толькі ў крас.— чэрв. 1944 партызаны падбілі 71 аўтамашыну ворага, знішчылі 5 мастоў. На чыг. участку Баранавічы — Брэст падарвалі і пашкодзілі 27 ням. эшалонаў. У ноч на 20 чэрв. штурмам авалодалі чыг. участкам каля ст. Косава-Палескае і падарвалі



Партызаны 2-й Ушацкай брыгады імя П. К. Панамарэнкі перад выхадам на баявое заданне.

больш за 750 рэек, бронедрызіну з аховай. 9—15.4.1944 вялі бai з праціўнікам, які імкнуўся ачысціць свае тылы ад партызан. 9—11.7.1944 брыгада (1146 партызан; атрады 36-ы, 40, 12, 15-ы) паатрадна злучылася з Чырв. Арміяй. Камандзіру брыгады Жуніну прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 8-я КРУГЛЯ́НСКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Круглянскага, Шклоўскага, Бялыніцкага і Крупскага р-наў.

У маі 1942 у Круглянскім р-не сустрэліся і пачалі дзейнічаць разам атрады «Сяргея» (С. Г. *Жуніна*, пазней атрад 36-ы *партызанскай брыгады 8-й*) і Дз. А. Кулікава (пазней *партызанскі атрад 8-ы*). 7.6.1942 у размяшчэнне атрадаў дэсантавана аператыўная група штаба Зах. фронту, якая 12.6.1942 аб'яднала атрады «Сяргея», Кулікава, Г. С. Мicнiка (пазней *партызанскі атрад 24-ы*) у т. зв. «Аб'яднанне атрадаў «Дзядзькі Сашы». 8.10.1942 яно перайменавана ў «Аб'яднаныя атрады Барысаўскага аператыўнага цэнтра» («Атрады БАЦ»), у крас. 1943 — у брыгаду 8-ю Круглянскую. У ліп. 1942 у брыгаду ўліўся асобны атрад «Гая» (пазней *партызанскі атрад 30-ы*), у ліст. — атрады А. С. Нікітчанкі і П. А. Красякова з брыгады «Чэкіст» (гл. атрады 40-ы і 12-ы партызанскай брыгады 8-й). Камандзіры А. А. Маршчынін, Жунін; камісары Дз. А. *Смагін*, М. К. Сушкоў; нач. штаба I. Г. *Ільін*. У крас. 1943 брыгада ўвайшла ў ВАГ пры Магілёўскім падп. абкоме КП(б)Б.



Камандаванне 12-й кавалерыйскай партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна. Злева направа: намеснік камандзіра брыгады па разведцы Р. М. Ладуцька, камандзір брыгады У. А. Ціхаміраў (сядзіць), начальнік штаба Дз. П. Самсонаў, камісар І. А. Цяплінскі. Сакавік 1944.

Партызаны наносілі ўдары на чыгунцы Мінск — Орша, шашы Мінск — Магілёў. У чэрв. 1942 захапілі і знішчылі эшалон з боепрыпасамі. 28.8.1942 атрады 36-ы, 8-ы, 24-ы разграмілі чыг. ст. Слаўнае, разбурылі чыг. палатно, рух спынены больш чым на суткі (гл. *Слаўненская аперацыя 1942*). Разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Дзянісавічы Крупскага (29.9.1942), Шапялевічы (5.12.1942), Марцянавічы (9.12.1942), Цяцерына (14.1.1943) Круглянскага р-наў і інш. Партызаны вырваліся з акружэння ў час карнай аперацыі *«Карлсбад»*, вялі абаронча бой каля в. Сомры Крупскага р-на (16.11.1942), баі з карнікамі ў лютым і сак. 1943. 3.8.1943 на ўчастку Слаўнае — Трацылава падарвалі больш за 1 тыс. рэек. 11.8.1943 брыгада (каля 900 партызан) пераўтворана ў *Круглянскую ваенна-аператыўную групу*. Камандзіру брыгады Жуніну прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 8-я РАГАЧО́ЎСКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Рагачоўскага, Журавіцкага, Жлобінскага, Буда-Кашалёўскага, Клічаўскага, Быхаўскага, Кіраўскага, Бярэзінскага р-наў.

Створана ў лютым 1943 на базе атрадаў 255-га і 257-га. У сак.— крас. 1943 арганізаваны атрады 258-ы, 259-ы і Рагачоўскі спецатрад (252-і). 1.11.1943 255-ы атрад разгорнуты ў полк. Камандзіры Ф. С. *Тарасевіч*, В. В. Чысцякоў; камісары А. А. *Бірукоў*, В. У. *Пайлаў*; нач. штаба Чысцякоў, М. Ф. Рубіс.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыг. участках Быхаў — Жлобін, Жлобін — Бабруйск. У сак. — крас. 1943 пусцілі пад адхон 32 эшалоны праціўніка, падарвалі і пашкодзілі 7 мастоў, больш за 40 аўтамашын. У жн. 1943 на ўчастку Жлобін — Бабруйск падарвалі 140 рэек, разбурылі стрэлачныя пераводы і пашкодзілі раз'езд Амельня; пазней на гэтым участку падарвалі больш за 1 тыс. рэек. Знішчылі дзесяткі варожых апорных пунктаў, у т. л. ў в. Рэкта, Дзедлава, Гадзілавічы, Стралкі, Побалава, Ціхінічы Рагачоўскага р-на, напалі на гарнізон у в. Падсёлы Кіраўскага р-на. У лютым, маі, ліп., кастр.— ліст. 1943 і ў лютым 1944 вялі баі з карнікамі за ўтрыманне партыз. зоны, за прарыў блакады і выхад з акружэння. У сак. 1944 брыгада рэарганізавана ў *Рагачоўскую ваенна-аператыўную групу*.

У 1964 у в. Заазер'е Рагачоўскага р-на ў гонар брыгады пастаўлена стэла.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 9-я ІМЯ́ С. М. КІ́РАВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Кіраўскага р-на.

Створана ў чэрв. 1944 на базе 539-га атрада, арганізаванага ў кастр. 1942. Камандзір брыгады В. Л. *Нікіцін*, камісар І. М. Пруднікаў, нач. штаба П. С. Царапкін.

Партызаны ў жн. 1943 у раёне ст. Рагачоў і ў чэрв. 1944 у раёне ст. Лотва ўдзельнічалі ў аперацыі «рэйкавая вайна». У кастр. 1943 каля ст. Чырвоны Бераг пусцілі пад адхон 4 эшалоны. У маі 1944 разбілі 13 аўтамашын, разбурылі 11 мастоў, 3,5 км палявой тэлефоннай лініі. У чэрв. 1944 вялі баі з ворагам, які адступаў уздоўж шашы Магілёў — Бабруйск. 27.6.1944 брыгада (831 партызан; атрады 539-ы, 101-ы, 102-і) злучылася з Чырв. Арміяй. Камісару атрада 102-га У. А. Парахневічу прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 9-я КІРАЎСКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Кіраўскага і сумежных з ім р-наў.

Створана ў сак. 1943 на базе 537-га, 538, 100-га атрадаў і Кіраўскага спецатрада, пераўтворанага ў 539-ы атрад. Камандзір С. І. *Свірыд*, камісар Г. Л. *Комар*, нач. штаба Дз. Ц. Ігнаценка.

Асн. ўдар партызаны наносілі па чыгунках Магілёў—Рагачоў, Асіповічы—Жлобін. Блакіравалі шашу Магілёў — Бабруйск: пашкодзілі 18 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі, на 12 км зрабілі завалы дарог і аб'язных шляхоў. З інш. брыгадамі і атрадамі ачысцілі ад ворага значную частку Кіраўскага і сумежных з ім раёнаў. Удзельнічалі ў абароне *Клічаўскай партызанскай зоны*. У ліп. 1943 брыгада расфарміравана, атрады перададзены Кіраўскай ваенна-аператыўнай групе. У 1968 у гонар брыгады каля пас. Скачок Кіраўскага р-на пастаўлены абеліск.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 10-я ЖУРАВІ́ЦКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Журавіцкага, Буда-Кашалёўскага, Кармянскага, Цэрахоўскага, Рагачоўскага, Жлобінскага, Чачэрскага р-наў.

Створана ў сак. 1943 на базе атрада 256-га (арганізаваны ў снеж. 1942). У жн. 1943 з брыгады вылучаны атрады для арганізацыі *партызанскай брыгады 1-й Буда-Кашалёўскай*. Камандзіры С. М. Белых (загінуў), І. М. Гаўрылаў; камісары І. М. *Дзікан*, К. М. Драчоў; нач. штаба П. К. Антонаў.

Партызаны наносілі ўдары на чыг. участку Гомель — Жлобін. У чэрв.— жн. 1943 правялі больш за 50 дыверсій па падрыву варожых эшалонаў. У аперацыі «рэйкавая вайна» на ўчастку Салтанаўка — Шарыбаўка падарвалі каля 2 тыс. рэек. Разграмілі 11 варожых апорных пунктаў, знішчылі 95 аўтамашын, 3 склады. Захапілі 27 кулямётаў, 239 вінтовак і інш. У лютым і крас. 1943 вялі баі з карнікамі. У кастр. каля в. Лазоўшчына Кармянскага р-на выбілі праціўніка з умацаваных пазіцый і злучыліся з Чырв. Арміяй.

Брыгада (2811 партызан; атрады 256-ы імя Сталіна, 260-ы імя Калініна, 261-ы імя Чапаева, 264-ы імя Суворава, 265-ы імя Варашылава, 266-ы імя Фрунзе, 267-ы «За Радзіму», 268-ы імя 25-годдзя камсамола) 28 вер., 2 кастр., у снеж. 1943, 24 лют. і 27.6.1944 паатрадна злучылася з Чырв. Арміяй. У 1964 каля в. Лозаў Буда-Кашалёўскага р-на, у 1975 каля в. Александроўка Жлобінскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнікі.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 11-я БЫХАЎСКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Клічаўскага, Быхаўскага, Кіраўскага і Рагачоўскага р-наў.

Створана ў крас. 1943 на базе 425-га і 810-га атрадаў. Камандзір Ф. П. *Падалян*, нач. штаба М. Г. Кісялёў, І. П. Федзячэнка (в. а.).

Партызаны наносілі ўдары на чыг.

участку Быхаў — Рагачоў: 6.7.1943 на ўчастку Тошчыца — 15-ы раз'езд разабралі 400 м чыг. пуці, падарвалі 90 рэек, за 4 км ад ст. Тошчыца разбурылі мост. У крас.— чэрв. 1943 падарвалі 14 эшалонаў, 4 масты на чыгунцы, шашэйных і грунтавых дарогах. У баях па ачышчэнню раёна дыслакацыі ад ням.-фаш. захопнікаў знішчылі 22 аўтамашыны, 11 гармат, разграмілі 2 гарнізоны. У ліп. 1943 брыгада (каля 1980 партызан; атрады 810-ы, 425, 225 і 435-ы) пераўтворана ў *Быхаўскую ваенна-аператыўную групу*.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 12-я КАВАЛЕРЫ́ЙСКАЯ ІМЯ́ І. В. СТА́ЛІНА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Пухавіцкага, Чэрвеньскага, Капыльскага, Чырвонаслабодскага, Старобінскага, Асіповіцкага, Бабруйскага, Ганцавіцкага, Глускага р-наў.

Створана ў сак. 1943 на базе атрада імя Сталіна (арганізаваны ў маі 1942 на базе групы У. А. Ціхамірава, якая дзейнічала з кастр. 1941), вылучанага партыз. брыгадай «За Радзіму». У сак. 1943 пераўтворана ў кавалерыйскую. Камандзір У. А. *Ціхаміраў,* камісар І. А. *Цяплінскі*, нач. штаба Дз. П. Самсонаў.

Партызаны праводзілі аперацыі на варожых камунікацыях Пухавічы — Бабруйск, Асіповічы — Баранавічы, Баранавічы — Лунінец. У «рэйкавай вайне» папсавалі каля 2,5 тыс. рэек. Разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Якшыцы Бярэзінскага, Ліпень, Лапічы Асіповіцкага (жн. 1942), в. Горкі Чэрвеньскага (студз. 1943), Падлужжа, Згода, Бярозаўка Глускага (ліп. 1943) р-наў, рабілі налёты на варожыя гарнізоны ў Пухавічах і ў в. Дзяніскавічы Ганцавіцкага р-на. У студз., сак., ліст. 1943, лютым, крас., маі 1944 вялі баі з карнікамі. З брыгадай 32-й імя Калініна ўтрымлівалі партыз. зону. Ва ўзаемадзеянні з часцямі Чырв. Арміі 29.6—3.7.1944 у раёне Чырвоная Слабада — Пагост вялі баі з ворагам, які адступаў.

3.7.1944 брыгада [579 партызан; атрады 754-ы імя Алёхіна (нам. камандзіра атрада імя Сталіна У. І. Алёхін загінуў у баі), 755-ы імя Дамручова (камандзір роты атрада імя Сталіна М. М. Дамручоў загінуў у баі), 756-ы імя А. В. Зеняпрэцава (камандзір аддзялення атрада імя Сталіна А. В. Зеняпрэцаў загінуў у баі)] злучылася з Чырв. Арміяй. Камандзіру брыгады Ціхаміраву прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1965 у в. Вял. Рожан Салігорскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнік.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 13-я КАСЦЮКО́ВІЦКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Касцюковіцкага, Клімавіцкага і Прапойскага р-наў.

Створана ў маі 1943 на базе 719-га, 46, 718-га атрадаў (з жн. 1943 адпаведна 1-ы, 2-і і 3-і батальёны). Камандзір С. А. Мазур, камісар Дз. Е. Савельеў, нач. штаба І. М. Мароз.

Партызаны 20.4—31.5.1943 зрабілі рэйд з Клічаўскага р-на ў Клімавіцкі, фарсіравалі р. Друць, Дняпро, Проня, Сож, з боем перайшлі чыгунку Быхаў — Рагачоў. У чэрв.— вер. 1943 вялі баі з ворагам, абараняючы раён дыслакацыі, праводзілі аперацыі на чыгунцы Клімавічы — Касцюковічы і прылеглых грунтавых дарогах. Удзельнічалі ў аперацыі «рэйкавая вайна». 29.9.1943 брыгада (1080 партызан; батальён 1-ы, 2-і, 3-і) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 14-я ЦЕМНАЛЁСКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Дрыбінскага, Чавускага, Мсціслаўскага, Чэрыкаўскага і Кармянскага р-наў.

Створана ў крас. 1943 у Клічаўскім р-не ў складзе атрадаў 128-га (арганізаваны ў снеж. 1941) і 129-га. Камандзір С. Р. Ялецкі, камісар М. Ф. Сяранскі, нач. штаба І. П. Сычоў. У маі перадыслацыравана ва ўсх. раёны Магілёўскай вобл.

Партызаны 128-га атрада ў сак. і вер. 1942 удзельнічалі ў разгроме варожых гарнізонаў у г. п. Клічаў і в. Выдрыца (гл. ў арт. *Клічаўскія баі 1942, 1943, Выдрыцкі бой 1942*). Вялі баі з карнікамі, у т. л. каля в. Разваdава (крас. 1942), Суша (май 1942) Клічаўскага р-на. Праводзілі аперацыі на чыгунцы Мінск — Масква каля ст. Крупкі, Слаўнае. Партызаны брыгады наносілі ўдары па чыгунках Магілёў — Крычаў, Орша — Крычаў. 3.8.1943 на ўчастку Магілёў — Раста падарвалі 1,1 тыс. рэек. Пры злучэнні з Чырв. Арміяй разграмілі гарнізоны ў в. Студзянец, Салабута, Касцюкоўка Кармянскага р-на, з баямі пераправіліся цераз р. Сож (гл. ў арт. *Бялыніцкія аперацыі 1943*). 1.10.1943 брыгада (1065 партызан; атрады 128-ы, 129, 127, 127-А, 126-ы) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 16-я СМАЛЕ́НСКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Касплянскага і Руднянскага р-наў Смаленскай вобл., Лёзненскага, Аршанскага, Сенненскага, Багушэўскага, Ушацкага, Міёрскага, Шаркоўшчынскага і Свірскага р-наў.

Створана ў ліп. 1942 у Касплянскім р-не на базе атрадаў У. І. Цалішчэўскага і А. С. Ляшчова (арганізаваны ў чэрв. 1942, потым 1-ы і 2-і атрады), вылучаных з 3-й партыз. брыгады Смаленскай вобл. Да вясны 1943 называлася партыз. брыгадай 5-й. З сак. 1943 дзейнічала на тэр. Віцебскай вобл. У снеж. 1943 8-ы атрад расфарміраваны. Камандзіры Т. Г. Давыдкін, І. Р. *Шлапакоў*, І. К. Алесянкоў; камісары Дз. Ц. *Гольнеў*, А. М. *Кулічкоў*, Р. М. Цімашэнкаў; нач. штаба А. Я. Шалыгін, Алесянкоў, П. П. Юр'еў, П. І. Вінаградаў, А. І. Бурцаў.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунках Віцебск — Орша, Орша — Смаленск, Полацк — Маладзечна, шашэйных і грунтавых дарогах Віцебск — Сянно, Віцебск — Лепель, Чашнікі — Лукомль, Ула — Камень. У «рэйкавай вайне» падарвалі больш за 1,4 тыс. рэек. Разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Сялец Аршанскага, Чудня Багушэўскага (крас. 1943), Краснае і Красная Горка Ушацкага (студз. 1944) р-наў. У восень 1943 у час *Лепельскай аперацыі 1943* прыкрывалі ўдарную лепельскую групоўку партызан з усх. боку. У час карнай аперацыі праціўніка на тэр. *Полацка-Лепельскай партызанскай зоны* (крас.— чэрв. 1944) утрымлівалі абарону на рубяжах в. Глыбачка — Цётча, Гарбаціца — Вясёлая Горка Ушацкага р-на і каля воз. Шо. Каб выйсці з блакады, у маі 1944 удзельнічалі ў разгроме гарнізонаў у в. Баяры, Бондары і Піскунова Плісkага р-на. У чэрв. 1944 вялі бой у в. Стары Пагост, прарвалі варожую блакаду ў раёне в. Дзянісава — Канахі Міёрскага р-на. Перад наступленнем Чырв. Арміі занялі Свір, наладзілі пераправу цераз р. Вілія, вылучылі праваднікоў, якія суправаджалі часці Чырв. Арміі да Вільнюса.

5.7.1944 брыгада [637 партызан; атра-



Група каманднага саставу 16-й Смаленскай брыгады. Зіма 1944.

ды 1-ы, 2-і, 3-і імя Курыленкі (у сак. 1944 нададзена імя Героя Сав. Саюза У. Ц. Курылёнкі), 4-ы, 5-ы, 6-ы, 7-ы] злучылася з Чырв. Арміяй. Брыгада ўвекавечана ў мемар. комплексе *«Прарыў»* у ліку 16 партыз. брыгад. У 1976 у в. Пятніцы Ушацкага р-на ў гонар брыгады ўстаноўлена мемар. дошка.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 17-я.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Дрыбінскага, Чавускага, Прапойскага і Быхаўскага р-наў.

Створана ў жн. 1943 на базе 4-га батальёна партыз. палка «Трынаццаць» (у чэрв. 1943 група атрада б. *партызанскай брыгады «Звязда»* ўвайшла ў полк як 4-ы батальён). Камандзір брыгады М. І. Кітаеў, камісар П. С. Равякоў, нач. штаба Б. А. Сяргееў.

У кастр. 1942 — лютым 1943 байцы групы атрадаў правялі 16 баёў з ворагам, які імкнуўся прарвацца ў зону дыслакацыі партызан. У аперацыі «рэйкавая вайна» на чыгунцы Магілёў — Крычаў падарвалі больш за 570 рэек. У кастр. 1943 удзельнічалі ў баях з ням.-фаш. захопнікамі ў Быхаўскім р-не, потым разгрупаваліся



Камандзір 18-й партызанскай брыгады імя М. В. Фрунзе С. С. Ключко (злева), камісар брыгады П. А. Бягун.

на асобныя падраздзяленні, якія вялі манеўраныя абарончыя баі. 1.10 і 2.12.1943 брыгада (457 партызан, атрады 122-і, 123-і, 124-ы) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 18-я ІМЯ́ М. В. ФРУ́НЗЕ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Дзяржынскага, Заслаўскага, Івянецкага, Клецкага, Ганцавіцкага р-наў.

Створана ў вер. 1942 на базе атрадаў імя Фрунзе (арганізаваны ў жн. 1942) і імя Дзяржынскага (арганізаваны ў вер. 1942). У снеж. 1943 — студз. 1944 брыгада зрабіла рэйд з Івянецкага р-на ў Клецкі і ўвайшла ў *Баранавіцкае Паўднёвай зоны партызанскае злучэнне.* Камандзіры брыгады П. І. *Серабракоў,* С. С. Ключко; камісары М. А. *Ваўчак,* В. І. *Каробкін,* П. А. *Бягун;* нач. штаба І. В. Анохін, К. П. Лойка, К. І. Бутрымовіч.

Партызаны вялі баявыя дзеянні на чыг. участках Мінск — Маладзечна, Мінск — Стоўбцы, Баранавічы — Лунінец. У жн. 1942 разбілі варожыя апорныя пункты ў в. Волма і Залатары. У маі — ліп. 1943 падарвалі больш за 100 рэек, 7 мастоў, 15 эшалонаў, знішчылі 33 аўтамашыны, у час разгрому апорнага пункта ў в. Тарасава каля Мінска захапілі мінамёт, 5 кулямётаў, больш за 40 вінтовак. У сак. 1944 выбілі ворага з в. Будча Ганцавіцкага р-на, сарвалі гвалтоўную мабілізацыю моладзі ў варожыя фарміраванні, вывелі са строю вузкакалейку на ўчастку Ганцавічы — Дзяніскавічы. У чэрв. 1944 у час «рэйкавай вайны» на чыг. участку Баранавічы — Лунінец падарвалі 550 рэек.

3.7.1944 брыгада (735 партызан; атрады імя Фрунзе, імя Дзяржынскага, імя Суворава, імя Катоўскага, імя Леніна, мясцовай самаабароны в. Колкі Клецкага р-на) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 19-я ІМЯ́ В. М. МО́ЛАТАВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Ляхавіцкага р-на.

Створана ў студз. 1944 на базе атрадаў імя Лазо (вылучаны *партызанскай брыгадай 18-й імя М. В. Фрунзе;* арганізаваны ў крас. 1943), імя Жукава (арганізаваны ў крас. 1943) і імя Кутузава (арганізаваны ў ліп. 1942). Камандзіры брыгады В. І. *Каробкін,* Я. П. Луцэнка; камісар С. К. *Дзесюкевіч;* нач. штаба А. Ф. Астапаў, М. К. Зайцаў.

Толькі ў крас.— чэрв. 1944 партызаны зрабілі больш за 30 дыверсій на чыг. участках Баранавічы — Лунінец, Баранавічы — Быцень і на шашэйных дарогах, падарвалі 14 эшалонаў, 36 аўтамашын, разбурылі 3 масты, знішчылі дзесяткі кіламетраў тэлефоннатэлеграфнай лініі. 20.6.1944 на ўчастку чыгункі Брэст — Баранавічы паміж ст. Лясная і Гінцавічы падарвалі больш за 460 рэек. Правялі 13 баёў, у т. л. каля в. Залужжа (11.4.1944), разам з брыгадай імя Грызадубавай каля в. Мінічы (4.7.1944) за мост цераз р. Шчара. Партызаны падбілі 2 танкі, адзін з іх патапілі.

7—10.7.1944 брыгада (538 партызан; атрады імя Жукава, імя Лазо, імя Кутузава) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1975 у в. Свяціца Ляхавіцкага р-на ў гонар брыгады пастаўлена стэла.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 20-я ІМЯ́ В. С. ГРЫЗАДУ́БАВАЙ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Чырвонаслабодскага і Быценскага р-наў.

Створана ў ліп. 1943 на базе атрадаў «За Радзіму», імя Чкалава, імя Матросава, імя Сільніцкага, Ф. С. Чарнова, якія сфарміраваны з разбуйненага атрада П. М. Сухарукава (арганізаваны летам 1942 з партызан Мінскай і Палескай абл.). Камандзіры Сухарукаў, С. С. Жарыкаў, В. З. *Іваноў;* камісары М. І. Засмужац (в. а.), Іваноў, Р. Дз. *Румянцаў,* І. Я. Пархоўчанка; нач. штаба В. Х. Свірын, А. М. Данілаў.

Толькі ў вер.— кастр. 1943 на чыг. участках Баранавічы — Лунінец, Баранавічы — Быцень партызаны падарвалі некалькі эшалонаў і каля 900 рэек. У ліст. 1943 атрад імя Чкалава і жыхары в. Залужжа разбурылі 5 км вузкакалейкі на ўчастку Востраў — Крывошын, атрад «За Радзіму» і жыхары в. Тухавічы і Рагачы — больш за 300 м чыг. палатна. Брыгада 21.6.1944 удзельнічала ў аперацыі «рэйкавая вайна» на З ад ст. Лясная на ўчастку чыгункі Брэст — Баранавічы. Вялі баі з карнікамі, якія імкнуліся прарвацца ў партыз. зону, у т. л. каля в. Залужжа (5.2.1944 і 10.4. 1944), Рагачы (3.2.1944). За ўвесь перыяд партызаны падарвалі 1571 рэйку, 30 эшалонаў, чыг. мост, 20 мастоў на інш. дарогах, у т. л. на Варшаўскай шашы цераз р. Шчара ў Ляхавіцкім р-не. Пры сустрэчы з часцямі Чырв. Арміі аднавілі 9 мастоў і пераправу ў Быценскім р-не.

12.7.1944 брыгада (762 партызаны; атрады імя Чкалава, імя Матросава, «За Радзіму», мясцовай самаабароны в. Разжалавічы, мясцовай самаабароны в. Залужжа, мясцовай самаабароны в. Тухавічы) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1967 на адным з месцаў дыслакацыі брыгады каля в. Залужжа Ляхавіцкага р-на адноўлена зямлянка.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «25 ГАДО́Ў БССР».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Гарадзішчанскага, Карэліцкага р-наў.

Створана ў снеж. 1943 на базе атрадаў, вылучаных *партызанскай брыгадай Першамайскай.* Камандзір Б. А. *Мічурын,* камісар П. І. *Смірноў,* нач. штаба С. В. Курзін.

Партызаны ў студз. 1944 на чыг. участку Баранавічы — Ліда падарвалі 8 эшалонаў, у чэрв.— 10 эшалонаў, 4 чыг. масты. Толькі ў чэрв. 1944 падарвалі 315 рэек. Вялі баі супраць гарнізонаў і апорных пунктаў ворага. У маі 1944 у час карнай экспедыцыі ўдзельнічалі ў прарыве варожага акружэння. У ліп. 1944 з часцямі Чырв. Арміі ўдзельнічалі ў вызваленні в. Дварэц Дзятлаўскага р-на.

10.7.1944 брыгада [811 партызан; атрады «Грозны» (створаны ў крас. 1942), імя Катоўскага (створаны ў ліп. 1942), імя Будзённага (створаны ў кастр. 1943), «25 гадоў БССР»] злучылася з Чырв. Арміяй. У 1979 у в. Ярэмічы Карэліцкага р-на ў гонар брыгады пастаўлена стэла.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 25-я ІМЯ́ П. К. ПАНАМАРЭ́НКІ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Любанскага, Жыткавіцкага, Капаткевіцкага р-наў.

Створана ў студз. 1943 на базе атрадаў А. І. *Далідовіча* [пазней імя Я. Дз. Гарбачова (адзін з арганізатараў партыз. руху ў Мінскай вобл., загінуў у баі), арганізаваны ў ліп. 1941], І. І. Чарнышова (пазней імя М. Ф. Сільніцкага, арганізаваны ў крас. 1942), Р. І. Пнышэўскага (пазней імя Аляксандра Неўскага, арганізаваны ў чэрв. 1942) і партызанскай групы К. М. Дзяшковіча (пазней атрад імя Кутузава). Камандзір Далідо-

віч, камісар А. А. *Баравік,* нач. штаба А. Ф. Лескін.

Баявыя аперацыі партызаны праводзілі на варожых камунікацыях Слуцк — Асіповічы, Жыткавічы — Калінкавічы і інш. Атрад Далідовіча ўдзельнічаў у разгроме варожай камендатуры ў Любані (7.11.1941), атрад імя Гарбачова — у рэйдзе на тэр. Мінскай, Палескай і Пінскай абл. (сак. 1942), атрады імя Сільніцкага і імя Аляксандра Неўскага — у знішчэнні чыг. мастоў на р. Пціч і Бобрык (ліст.—снеж. 1942). У лютым — сак. 1943, студз.— лютым 1944 партызаны брыгады вялі баі з карнікамі. 10—13.3. 1943 разбурылі чыг. ветку на ўчастку Старушкі — Сосны, 29—30.5.1943 — на ўчастку Жыткавічы — Старушкі; 11.4.1944 разграмілі варожы гарнізон у в. Сосны Любанскага р-на. На месцы дыслакацыі штаба брыгады, Мінскага падп. абкома і Любанскага РК КП(б)Б на востраве Зыслаў мемар. комплекс.

1.7.1944 брыгада (1473 партызаны; атрады імя Гарбачова, імя Сільніцкага, імя Аляксандра Неўскага, імя Кутузава, імя Кастуся Каліноўскага, «Камсамолец», Баяніцкі) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 27-я ІМЯ́ В. І. ЧАПА́ЕВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Капыльскага, Грэскага, Нясвіжскага, Клецкага р-наў.

Створана ў снеж. 1942 на базе атрадаў імя Шчорса (арганізаваны ў крас. 1942), імя Чапаева (арганізаваны ў крас. 1942) і імя Жукава (арганізаваны ў ліп. 1942), вылучаных *партызанскай брыгадай імя К. Я. Варашылава.* Камандзіры М. А. *Шастапалаў,* М. Дз. Курыльчык (в. а.); камісары І. М. *Ражкоў,* П. І. *Разувакін,* Н. Дз. *Емяльянаў;* нач. штаба Курыльчык, С. В. Рабкевіч (в. а.), М. А. Рагожнікаў.

Партызаны ў жн. 1943 і чэрв. 1944 на ўчастках Стоўбцы — Гарадзея, Буды — Райтанаў, Слуцк — Цімкавічы падарвалі 3916 рэек. У лютым, сак. 1943, лютым, чэрв. 1944 вялі баі з карнікамі. У вер. 1943 разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Сейлавічы Нясвіжскага (гл. *Сейлавіцкі бой 1943)* і Кіявічы Капыльскага р-наў, 29.6. 1944— у Капылі. 2.7.1944 разам з часцямі Чырв. Арміі ўдзельнічалі ў вызваленні Стоўбцаў і Нясвіжа. 1.7.1944 брыгада [1513 партызан; атрады імя Шчорса, імя Чапаева, імя Панамарэнкі, імя Дунаева; камандзір атрада імя Чапаева І. М. Тараховіч (Дунаеў) загінуў у баі] злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 27-я НАРАЎЛЯ́НСКАЯ ІМЯ́ С. М. КІ́РАВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Нараўлянскага р-на.

Створана 20.10.1943 на базе асобных атрадаў імя Кірава (арганізаваны ў снеж. 1942), імя Суворава (арганізаваны ў чэрв. 1943) і імя Фрунзе (арганізаваны ў кастр. 1943). Камандзір У. П. Яромаў, камісар П. І. Літоўскі, нач. штаба У. М. Клейнос.

Партызаны вялі шматлікія баі з праціўнікам, найбольш значныя 29.8. 1943 у Мухаедаўскім лесе і 19.9.1943 пры нападзе на гарнізон у Нароўлі (гл. *Нараўлянска-Шчакатоўская аперацыя 1943).* Учынялі дыверсіі на чыгунках, шашэйных і грунтавых дарогах. 11.11.1943 група аўтаматчыкаў на чале з І. І. Бельскім узарвала на р. Славечна 2 масты стратэгічнага значэння. 29—30.11.1943 разам з часцямі 1-га Укр. фронту ўдзельнічалі ў вызваленні Нароўлі, в. Верхні і Ніжні Млынок (гл. *Нараўлянская аперацыя 1943).* 28.11.1943 брыгада (655 партызан; атрады імя Кірава, імя Суворава, імя Фрунзе, імя Будзённага) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1945 каля в. Хільчыха Нараўлянскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены мемар. знак.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 32-я ІМЯ́ М. І. КАЛІ́НІНА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Капыльскага і Чырвонаслабодскага р-наў.

Створана ў маі 1944 на базе атрада імя Пархоменкі (арганізаваны ў ліст. 1942). Камандзір П. В. Качкоў, камісар А. З. Драбеня, нач. штаба І. М. Валністы.

Баявыя дзеянні партызаны праводзілі на варожых камунікацыях. Удзельнічалі ў аперацыі «рэйкавая вайна». У лютым 1944 з брыгадай 12-й кав. імя Сталіна напалі на варожы гарнізон у в. Дзяніскавічы Ганцавіцкага р-на. Правялі 9 баёў па выратаванню мірнага насельніцтва ад вывазу ў Германію. У час наступлення Чырв. Арміі будавалі пераправы цераз р. Морач. 1.7.1944 брыгада (477 партызан; атрады імя Пархоменкі, імя Варашылава, кав. імя Суворава) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1965 у в. Вял. Рожан Салігорскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнік.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 35-я** (п а р т ы з а н с к і а т р а д 35-ы). Дзейнічала на акупіраванай тэр. Бялыніцкага і Шклоўскага р-наў.

У крас. 1943 створаны атрад, у вер. ён уключаны ў Бялыніцкую ВАГ. Камандзіры П. І. Саўчак (загінуў), І. Р. Прахарэнка; камісары С. А. Шонін, Р. І. *Думчаў,* А. К. Саламацін; нач. штаба І. М. Мамонаў.

Партызаны праводзілі баявыя дзеянні пераважна на чыг. камунікацыях ворага. Удзельнічалі ў нападзе на варожы гарнізон у Бялынічах (вер. 1943), у канцы студз. 1944 вялі баі з карнікамі, у чэрв. на чыг. участку Шклоў — Лотва падарвалі больш за 840 рэек. 30.6.1944 атрад (554 партызаны) злучыўся з Чырв. Арміяй. Пасля злучэння БШПР вызначыў атрад з студз. 1944 як брыгаду.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 37-я Е́ЛЬСКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Ельскага, Лельчыцкага, Тураўскага, Мазырскага і інш. р-наў.

Створана 1.7.1943 на базе Ельскага атрада, арганізаванага ў лютым 1942. Пры фарміраванні брыгады разбуйнены на 4 атрады. Камандзір брыгады А. С. Мішчанка; камісары Я. А. *Татараў,* І. П. Пастухоў; нач. штаба С. І. Міксюк.

Баявыя аперацыі партызаны праводзілі на чыгунках, шашэйных і грунтавых дарогах. Найбольш значныя з іх засадныя баі 12 жн., 14.11.1942, 30.3.1943 на дарогах Скароднае — Валаўская Рудня, Оўруч — Ельск. Некалькі баёў правялі разам з укр. партыз. атрадамі злучэння С. А. Каўпака, у т. л. бой у снеж. 1942 каля в. Глушкавічы Лельчыцкага р-на. У вер. 1943 партызаны ўдзельнічалі ў аперацыі «рэйкавая вайна» на чыг. участку Багуцічы — Ельск. Разам з



Каменданцкі ўзвод 18-й партызанскай брыгады імя М. В. Фрунзе. Май 1943.

часцямі Чырв. Арміі вялі баі за вызваленне г. п. Ельска (гл. *Ельская аперацыя 1943*) 27.11, 19.12.1943, 11.1.1944 брыгада (755 партызан; атрады «Бальшавік», імя Чапаева, «За Радзіму», «Смерць фашызму») паатрадна злучылася з Чырв. Арміяй. У 1970 у в. Зашыр'е Ельскага р-на ў гонар брыгады ўстаноўлена мемар. дошка.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 37-я ІМЯ́ А. Я. ПАРХО́МЕНКІ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Бабруйскага, Старобінскага, Любанскага, Акцябрскага, Глускага р-наў.

Створана ў студз. 1943 на базе атрадаў М. Б. *Храпко* (пазней імя Кірава, арганізаваны ў студз. 1942), У. М. Шваякова (пазней імя Шчорса, арганізаваны ў студз. 1942), П. Я. Ігуменава (пазней «За Савецкую Радзіму», У. К. *Якавенкі* (пазней імя Варашылава), М. П. Сезіка (пазней імя Чапаева). Камандзіры П. М. Канавалаў, А. В. *Львоў*; камісары С. К. *Ляшчэня*, Храпко; нач. штаба Я. М. Качанаў, С. В. Сыраквашын, Я. С. Раманаў.

Баявыя аперацыі партызаны праводзілі на варожых камунікацыях. 3.8. 1943 падарвалі больш за 600 рэек, 23.9.1943 — больш за 900 рэек, 20.6. 1944 — каля 940 рэек. Разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Усцярхі Глускага, Брожа, Гарбацэвічы, Орсічы Бабруйскага р-наў, удзельнічалі ў разгроме варожага гарнізона ў в. Прагасы Акцябрскага р-на. На аэрадроме ў Бабруйску з дапамогай падпольшчыкаў знішчылі 15 самалётаў. 1—20.12.1943 брыгада дзейнічала разам з 37-й гвардз. стралк. дывізіяй. 30.6. 1944 брыгада (1195 партызан; атрады імя Шчорса, імя Чапаева, імя Кірава, імя Фурманава, імя Арджанікідзе) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1965 у в. Скаўшын Салігорскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнік.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 47-я «ПЕРАМО́ГА»** (партызанскі атрад 47-ы «Перамога»). Дзейнічала на акупіраванай тэр. Краснапольскага р-на.

У чэрв. 1942 створаны атрад і накіраваны ў варожы тыл. У жн. 1942 ён прыбыў у Горацкі р-н, у кастр. 1942 перадыслацыраваны ў Прапойскі, потым у Краснапольскі р-ны, дзейнічаў у групе партыз. атрадаў М. М. Іванова, з сак. 1943 самастойна, з жн. ў Краснапольскай ВАГ. Камандзіры М. Ц. *Перапечкін*, Ф. П. Ліпкін (в. а.); камісары В. К. *Арлоўскі*, Х. Калімулін; нач. штаба А. У. Гаркавенка, А. М. Лосеў.

Партызаны наносілі асн. ўдары па варожых камунікацыях Горкі — Крычаў, Крычаў — Клімавічы, Жлобін — Гомель. У жн.— вер. 1942 падарвалі 6 эшалонаў, знішчылі 5 аўтамашын. У жн. 1943 падарвалі больш за 480 рэек. У вер. 1943 узаемадзейнічалі з часцямі Чырв. Арміі, якія наступалі. 1.10.1943 разам з часцямі Чырв. Арміі перарэзалі адыход ворагу за р. Сож. 1.10.1943 атрад (554 партызаны) злучыўся з Чырв. Арміяй. Пасля злучэння БШПР вызначыў атрад з сак. 1943 як брыгаду.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 50-я ЖЫ́ТКАВІЦКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Жыткавіцкага, Тураўскага, Лельчыцкага р-наў.

Створана ў вер. 1943 на базе атрадаў «1 Мая» (арганізаваны ў ліп. 1941 з парт.-сав. актыву Жыткавіцкага р-на, пад назвай «1 Мая» з вясны 1943) і 2-га Жыткавіцкага (арганізаваны ў ліп. 1943, з кастр.



Партызаны атрада «Грозны» брыгады «25 гадоў БССР» прымаюць прысягу. Вясна 1944.



Група партызан 37-й Ельскай брыгады.





Партызаны 37-й брыгады імя А. Я. Пархоменкі разбураюць чыгуначнае палатно. 1943.

Партызаны атрада імя С. М. Кірава 37-й брыгады імя А. Я. Пархоменкі на захопленай у ворага танкетцы.

109-ы, 15.1.1944 атрад у складзе 194 партызан злучыўся з Чырв. Арміяй). Камандзір У. І. *Гушчэня*; камісары У. М. *Дзербан*, І. К. *Талкачоў*; нач. штаба А. І. Ціхончык, М. С. Палознік, А. А. Асокін.

Партызаны знішчалі жывую сілу і тэхніку ворага на чыгунках, шашэйных і грунтавых дарогах. У лютым 1944 на дарозе Бялёў — Жыткавічы падарвалі 20 аўтамашын з салдатамі і тэхнікай. Асабліва паспяхова дзейнічала дыверсійная група нам. камісара па камсамолу 105-га атрада У. С. Бараноўскага (загінуў у снеж. 1943 пры выкананні баявога задання). У студз.— крас. 1944 пусцілі пад адхон больш за 40 эшалонаў, падарвалі 80 аўтамашын. Толькі ў ноч на 20.6. 1944 падарвалі больш за 730 рэек. 6.7.1944 брыгада (900 партызан; атрады «1 Мая», 105-ы, 113-ы, 117-ы) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 61-я** (партызанскі атрад 61-ы). Дзейнічала на акупіраванай тэр. Клічаўскага, Бялыніцкага, Шклоўскага, Быхаўскага, Кіраўскага і Магілёўскага р-наў.

З ліп. 1941 на ст. Мілое Клічаўскага р-на дзейнічала партыз. група Р. К. *Паўлава*, якая ў маі 1942 увайшла ў Клічаўскі аператыўны цэнтр як атрад 61-ы. З ліст. атрад у брыгадзе 5-й Клічаўскай, з мая 1943 дзейнічаў самастойна. З ліп. 1943 асобны атрад Магілёўскай ВАГ. Камандзір Паўлаў; камісары Ф. Ц. Кальчук, А. А. *Хачатран*, П. Я. *Гаро*, Дз. Ф. *Вайстроў*; нач. штаба Г. А. Цывін, В. П. Белабародаў, М. Ф. Міраповіч.

Партызаны наносілі ўдары па варожых камунікацыях на ўчастках Орша — Жлобін, Магілёў — Мінск, Магілёў — Бабруйск. У аперацыі «рэйкавая вайна» падарвалі больш за 800 рэек. 9.8.1942 вялі бой супраць карнікаў (гл. *Кучынскі бой 1942*). Удзельнічалі ў разгроме варожых гарнізонаў у в. Дручаны ў крас. 1943, в. Дашкаўка Магілёўскага р-на ў жн. 1943 (гл. *Бялыніцкія аперацыі 1943*), у в. Ермаловічы ў кастр. 1943 (гл. *Ермаловіцкі бой 1943*), у г. п. Клічаў у крас. 1943 (гл. *Клічаўскія баі 1942, 1943*). 20.6.1944 разам з 1-м батальёнам 121-га партыз. палка вялі бой з часцямі мотамеханізаванай дывізіі, расскватараванымі ў в. Ямніца (гл. *Ямніцкі бой 1944*). Да падыходу Чырв. Арміі ўтрымлівалі пераправу цераз р. Друць. 30.6.1944 атрад (568 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй. Пасля злучэння БШПР вызначыў атрад з кастр. 1943 як брыгаду ў складзе 3 атрадаў.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 64-я І́МЯ В. П. ЧКА́ЛАВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Любанскага, Слуцкага, Старадарожскага, Старобінскага р-наў.

Створана ў студз. 1943 на базе атрадаў М. М. Розава (пазней імя М. М. Громава, арганізаваны ў вер. 1941), А. Я. Абабкава (пазней «Жалязняк», арганізаваны ў ліп. 1942), А. І. Патрына (пазней імя Даватара, арганізаваны ў жн. 1941). Камандзіры брыгады М. М. Розаў, П. І. *Смірноў* (в. а.); камісары А. В. *Львоў*, І. С. *Кананові*ч; нач. штаба У. А. Варотнікаў.

Партызаны ў жн. 1943 перабілі каля 2,3 тыс. рэек. У ліст.— снеж. 1943 падарвалі 9 эшалонаў, 78 аўтамашын, 9 мастоў, збілі 1 самалёт, удзельнічалі ў разгроме варожага гарнізона ў в. Макарычы Старадарожскага р-на, разбілі варожы гарнізон у в. Белічы Слуцкага р-на.

30.6.1944 брыгада (1115 партызан; атрады імя Даватара, імя Громава, «Жалязняк», імя Катоўскага, імя Лазо, імя 14 слуцкіх партызан) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1965 у в. Пярэспа Любанскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнік.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 95-я І́МЯ М. В. ФРУ́НЗЕ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Грэскага, Слуцкага р-наў.

Створана ў вер. 1943 на базе атрадаў імя Будзённага (арганізаваны ў сак. 1942), імя Кірава, імя Дзяржынскага, імя Ракасоўскага, вылучаных *партызанскай брыгадай 225-й імя А. В. Суворава*. Камандзір брыгады І. В. *Арастовіч*, камісар А. Ц. *Міновіч*, нач. штаба С. П. Патапенка.

Партызаны праводзілі аперацыі на камунікацыях ворага. У ліст. 1943, лютым — крас. 1944 вялі баі з карнікамі. У пач. чэрв. 1944 у Грэскім і Слуцкім р-нах за 9 дзён правялі



Група каманднага саставу 50-й Жыткавіцкай брыгады.



Група партызан 61-й брыгады. 1944.



Палітінфармацыя ў 64-й партызанскай брыгадзе імя В. П. Чкалава.

10 баёў з праціўнікам, прычынілі ворагу значныя страты.

29.6.1944 брыгада (1032 партызаны; атрады імя Будзённага, імя Кірава, імя Дзяржынскага, імя Ракасоўскага, імя Аляксандра Матросава) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1966 у в. Застарычы Старадарожскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнік.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 99-я І́МЯ Дз. Ц. ГУЛЯ́ЕВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Глускага, Старадарожскага, Целяханскага, Лагішынскага, Іванаўскага, Косаўскага р-наў.

Створана ў студз. 1943 у Глускім р-не на базе атрадаў Дз. Ц. *Гуляева*, У. Ц. Шантара, А. П. Пакуша, Б. М. Цыкунова, М. Ц. Грабко. Камандзіры І. М. *Кулікоўскі*, А. Ц. *Чайкоўскі*, У. К. *Якавенка*; камісары Чайкоўскі, М. К. *Панцялеенка*; нач. штаба В. М. Сярэдзін, В. М. Каракулін. У сак. 1943 атрады Шантара і Пакуша вылучаны для фарміравання *партызанскай брыгады 225-й*, у чэрв. атрад Гуляева — *партызанскай брыгады 101-й імя Аляксандра Неўскага*, у вер. атрад Цыкунова — *партызанскай брыгады 100-й Глускай*. У вер. 1943 у брыгаду ўвайшоў атрад імя Варашылава (арганізаваны ў крас. 1942, да студз. 1943 дзейнічаў самастойна, потым у партыз. брыгадзе 37-й імя Пархоменкі). У снеж. 1943 — студз. 1944 брыгада перадыслацыравана ў Целяханскі р-н.

Партызаны рабілі дыверсіі на чыг. участках Бабруйск — Асіповічы, Баранавічы — Лунінец. У ноч на 26.9. 1943 штурмам авалодалі чыг. участкам Асіповічы — Татарка, падарвалі больш за 1 тыс. рэек, разбурылі чыг. палатно. Вялі баі па разгрому варожых гарнізонаў і апорных пунктаў. У крас. 1944 удзельнічалі ў абарончых баях на р. Ясельда з карнікамі. На Агінскім канале пабудавалі пераправу і ўтрымлівалі яе да падыходу Чырв. Арміі. Разам з часцямі Чырв. Арміі ўдзельнічалі ў вызваленні райцэнтраў Целяханы, Азарычы, в. Краглевічы.

10.7.1944 брыгада [415 партызан; атрады імя Варашылава, імя Грабко (камандзір атрада Грабко загінуў у баі), імя Воранава] злучылася з Чырв. Арміяй.



Распрацоўка плана баявой аперацыі па знішчэнню моста на чыгуначнай станцыі Вярхуціна Старадарожскага р-на партызанамі 64-й брыгады імя В. П. Чкалава. Лета 1943.



Група каманднага саставу 99-й партызанскай брыгады імя Дз. Ц. Гуляева.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 99-я КАЛІ́НКАВІЦКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Калінкавіцкага, Васілевіцкага, Хойніцкага, Мазырскага, Капаткевіцкага, Акцябрскага р-наў.

Створана ў маі 1943 на базе атрада імя Варашылава, арганізаванага ў чэрв. 1942. Камандзір брыгады В. А. Караткевіч, камісар С. П. *Ракіцкі*, нач. штаба А. М. Казакоў. У ліпені 1943 з *партызанскай брыгады 210-й Капаткевіцкай* у брыгаду перададзены атрад Я. Р. Гулевіча (пазней — 5-ы). У кастр. 1943 на базе 4-га атрада імя Фрунзе, вылучанага з брыгады, створана *партызанская брыгада 2-я Калінкавіцкая імя М. В. Фрунзе.*

Партызаны знішчалі жывую сілу і тэхніку ворага на чыгунках і шашэйных дарогах. У чэрв. 1942 узарвалі электрастанцыю ў Калінкавічах, у ліп. знішчылі на р. Прыпяць параход і 2 баржы, у вер. — лесапільню і пеньказавод на ст. Гарочычы. У кастр. спалілі 9 варожых складоў у Мазырскім р-не. Толькі ў ноч на 4.8.1943 на чыг. участку Гарочычы — Юшкі разбурылі каля 2 км чыг. палатна. 23.8.1943 разам з партызанамі брыгад 101-й Даманавіцкай і Васілевіцкай імя Панамарэнкі разграмілі варожы гарнізон у гаспадарцы «Ведрыч» (гл. *Ведрыцкі бой 1943*), вялі баі па знішчэнню гарнізонаў у в. Капцэвічы, Колкі Капаткевіцкага, в. Каплічы Даманавіцкага р-наў і інш.

Брыгада (604 партызаны) паатрадна 28.11.1943 (атрады 2-і імя Катоўскага і 3-і імя Шчорса), 20.12.1943 (5-ы), 29.6. 1944 (1-ы імя Варашылава) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1975 у в. Гогалева, Гулевічы, Зеляночы, у 1964 у в. Прудок Калінкавіцкага р-на ў гонар брыгады ўстаноўлены мемар. дошкі.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 100-я ГЛУ́СКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Глускага і Акцябрскага р-наў.

Створана 6.9.1943 на базе атрадаў Б. М. Цыкунова (пазней імя Будзённага, арганізаваны ў крас. 1942), П. Я. Ігуменава (пазней «За Савецкую Радзіму», арганізаваны ў студз. 1942 на базе групы А. Г. Балаханава, якая дзейнічала з 1941), І. А. Бабіча (пазней імя Калініна, арганізаваны ў студз. 1943). Камандзір І. М. *Кулікоўскі*; камісары А. Я. Жулега, Дз. Н. Удалой, П. Р. Чарнушын; нач. штаба Ігуменаў.

Баявыя аперацыі партызаны праводзілі на чыг. участку Калінкавічы — Лунінец і на шашэйных дарогах. Правялі больш за 140 адкрытых і засадных баёў, у выніку разграмілі гарнізоны ворага ў в. Бярозаўка, Касарычы, Катка Глускага, Альбінск, Ламавічы Акцябрскага р-наў. Бой за в. Альбінск працягваўся 2 сутак. 8.9.1943 на чыг. участку Калінкавічы — Пціч падарвалі каля 700 рэек. Атрад імя Будзённага за час дзейнасці падарваў 16 эшалонаў, 38 аўтамашын, 2 цягачы, 2 бронетранспарцёры, знішчыў

18 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі. У крас. 1944 брыгаду блакіравалі карнікі. У выніку 14-дзённых жорсткіх баёў партызаны прарвалі блакаду. 28.6.1944 брыгада (512 партызан; атрады «За Савецкую Радзіму», імя Будзённага, імя Калініна) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 100-я ІМЯ́ С. М. КІРАВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Старадарожскага р-на.

Створана ў сак. 1943 на базе атрада А. І. *Шубы* «Народныя мсціўцы», арганізаванага ў чэрв. 1942 на базе парт.-камсам. групы, якая дзейнічала з 1941. Да снеж. 1943 брыгада наз. 100-я «Смерць фашызму». Камандзір Шуба; камісары Г. М. *Машкоў*, І. С. *Савелаў*, І. М. *Ражкоў*; нач. штаба Ф. В. Дзераўнін, І. І. Папоў, І. З. Ганчароў.

Атрад «Народныя мсціўцы» 7.8. 1942 разбіў варожыя гарнізоны ў в. Сінягова, 4.9.1942 — у в. Макарычы Старадарожскага р-на. 20.6.1943 разам з атрадам «Жалязняк» брыгады 64-й імя Чкалава разграмілі чыг. ст. Фалічы, знішчылі чыг. мост, 0,5 км чыг. палатна. У жн., снеж. 1943, лютым, крас. 1944 вялі баі з карнікамі. У «рэйкавай вайне» падарвалі каля 7 тыс. рэек на чыг. участку Клецк — Асіповічы. 27—28.6.1944 разам з брыгадамі 121-й імя Брагіна, 258-й імя Куйбышава, 161-й імя Катоўскага захапілі і ўтрымлівалі да падыходу Чырв. Арміі пераправу цераз р. Пціч.

28.6.1944 брыгада (1031 партызан; атрады 1-ы імя Чапаева, 2-і імя Кутузава, 3-і імя Фрунзе, 4-ы імя Чкалава, 5-ы імя Будзённага, 6-ы) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1974 у в. Асавец Любанскага і Залужжа Старадарожскага р-наў у гонар брыгады пастаўлены помнікі.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 101-я ДАМА́НАВІЦКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Даманавіцкага, Васілевіцкага р-наў.

Створана 1.6.1943 на базе Даманавіцкага атрада, арганізаванага ў маі 1942. Пры фарміраванні брыгады разбуйнены на 3 атрады, пазней арганізаваны атрад «Смерць фашызму». Камандзіры брыгады М. А. Чарнавусаў, В. М. Мінін; камісар М. Я. Казлоў; нач. штаба Мінін, М. Р. Салавей.

Партызаны ў крас.— ліп. 1943 вялі аперацыі па разгрому варожых гарнізонаў у в. Даманавічы, Каплічы і Савічы; 23 жн. разам з брыгадамі Васілевіцкай імя Панамарэнкі і 99-й Калінкавіцкай разграмілі варожы гарнізон у в. Ведрыч (гл. *Ведрыцкі бой 1943*). 26 жн. вывелі са строю чыг. ўчастак Галявіцы — Калінкавічы, знішчылі 2 масты на чыг. участку Жлобін — Калінкавічы. У вер. каля в. Бабровічы і Хутар вялі баі з карнікамі. 3 і 7 кастр. збілі 2 варожых самалёты. У ноч на 18 ліст. разам з часцямі Чырв. Арміі вызвалілі Васілевічы. 26—29 ліст. навялі праз балоты пераправы, што спрыяла паспяховаму наступленню часцей Чырв. Арміі.

18.11.1943 брыгада (743 партызаны; атрады «За Радзіму», «Мсцівец», імя Чапаева, «Смерць фашызму») злучылася з Чырв. Арміяй. У 1975 у в. Даманавічы і Халоднікі Калінкавіцкага р-на ў гонар брыгады ўстаноўлены мемар. дошкі.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 101-я ІМЯ́ АЛЯКСА́НДРА НЕ́ЎСКАГА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Старобінскага р-на.

Створана ў чэрв. 1943 на базе атрадаў В. Ц. *Меркуля* (пазней імя Сталіна, арганізаваны ў ліп. 1941) і Дз. Ц. *Гуляева* (пазней імя Дз. Ц. Гуляева, арганізаваны ў маі 1942), вылучанага партыз. брыгадай 258-й імя Куйбышава, 4-га [пазней імя Бандараўца (камісар атрада «Камарова» М. І. Бандаравец загінуў)], імя Харсеева (партызан атрада «Камарова» І. М. Харсееў загінуў). Камандзіры Гуляеў (загінуў), М. Дз. *Курыльчык*; камісар Меркуль; нач. штаба С. М. Палякоў (загінуў), П. З. Ігнашчанка.

Партызаны ў «рэйкавай вайне» падарвалі 3,3 тыс. рэек. Знішчылі 74 аўтамашыны, папсавалі 72,5 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі. Разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Івань Слуцкага, Пагост Старобінскага р-наў і інш. 18—27.5.1944 удзельнічалі ў баях супраць карнікаў, правялі 4 абарончыя баі каля в. Вял. Лістападавічы, Мазуршчына, Мелкавічы, Ананчыцы, Скаўшын, Чырвонае Возера, Крушнікі. 29.6.1944 з боем занялі Старобін і пераправу на р. Случ, утрымлівалі іх да падыходу Чырв. Арміі (гл. *Старобінскія баі 1942, 1944*).

1.7.1944 брыгада [1300 партызан; атрады імя Сталіна, імя Гуляева, імя Ламейкі (намеснік камандзіра атрада П. С. Ламейка загінуў), імя Бандараўца] злучылася з Чырв. Арміяй. Камандзіру брыгады Гуляеву прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1965 у в. Махнавічы Салігорскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнік.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 115-я ГО́РАЦКАЯ** (п а р т ы з а н с к і  а т р а д  115-ы Г о р а ц к і). Дзейнічала на акупіраванай тэр. Горацкага, Дрыбінскага, Дубровенскага, Шклоўскага, Аршанскага р-наў.

У кастр. 1943 створаны атрад 35-А (з лют. 1944 атрад 115-ы). Камандзір Г. Р. *Ленчыкаў*; камісары І. І. Лагімахаў, А. Ф. Палікарпаў. Атрад сфарміраваў 4 роты, пашырыў уплыў на 2-і атрад (пазней *партызанскі атрад 112-ы Горацкі*) і з ліст. 1943 выконваў функцыі галаўной арганізацыі.

Асноўныя баявыя дзеянні вялі па абароне ад ням.-фаш. захопнікаў раёна дыслакацыі, дзе ў маі 1944 пад аховай партызан было больш за 3,5 тыс. мірных жыхароў. У маі 1944 разам з 112-м Горацкім атрадам партызаны вялі абарончыя баі, прарвалі блакаду і выйшлі з акружэння. Наносілі ўдары на чыг. участках Магілёў — Крычаў, Орша — Шклоў. 26.6.1944 атрад (801 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй. Пасля злучэння БШПР вызначыў 115-ы атрад з кастр. 1943 як брыгаду у складзе 4 атрадаў.



Група каманднага саставу 101-й Даманавіцкай партызанскай брыгады.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 120-я** (п а р т ы з а н с к і  а т р а д  120-ы). Дзейнічала на акупіраванай тэр. Бярэзінскага, Бялыніцкага і Клічаўскага р-наў.

У ліп. 1942 на базе ініцыятыўнай групы, вылучанай 345-м атрадам, створаны атрад 120-ы. Атрад быў спецатрадам пры Бярэзінскім падп. РК КП(б)Б, уваходзіў у 3-ю Бярэзінскую брыгаду, з ліп. 1943 асобны атрад Бярэзінскай ВАГ. Камандзіры Г. М. Архіпец, К. А. Баранаў, І. А. Баранаў; камісары І. П. *Сакалоўскі*, М. М. Барысёнак, А. Б. Маркоўскі; нач. штаба К. А. Баранаў, В. Я. Буры, М. Дз. Каралеўскі.

Партызаны рабілі дыверсіі на чыг. участку Жодзіна — Чырвоны Сцяг,

шашы Мінск — Магілёў. У аперацыі «рэйкавая вайна» на ўчастку Дашкаўка — Быхаў падарвалі больш за 500 рэек. У лют. і маі 1943 вялі абарончыя баі. У крас. 1943 разграмілі варожы апорны пункт у в. Журавок, у ліст. 1943.— у в. Капланцы. У снеж. 1943 правялі засадны бой каля в. Кукарава Бярэзінскага р-на. З часцямі Чырв. Арміі, якія наступалі, наносілі ўдары па варожых войсках, у т. л. каля в. Галынка (2.7.1944). 2.7.1944 атрад (632 партызаны) злучыўся з Чырв. Арміяй. Пасля злучэння БШПР вызначыў атрад з жн. 1943 як брыгаду ў складзе 4 атрадаў.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 121-я ІМЯ́ А. Ф. БРА́ГІНА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Любанскага, Старобінскага, Акцябрскага, Глускага, Капаткевіцкага, Петрыкаўскага р-наў.

Створана ў кастр. 1943. Камандзір К. Ф. *Пушчын*, камісар В. М. *Якіменка*, нач. штаба М. П. Шардыка.

Партызаны праводзілі аперацыі на варожых камунікацыях, на ўчастку Капцэвічы — Мікашэвічы падарвалі больш за 700 рэек. Атрад імя Гастэлы ўдзельнічаў у падрыве чыг. мастоў цераз р. Пціч і Бобрык (ліст. і снеж. 1942), у разгроме варожага гарнізона ў в. Ламавічы Акцябрскага р-на (гл. *Ламавіцкі бой 1942).* У вер. 1942— студз. 1943 падарвалі 12 эшалонаў, разбурылі 10 км чыг. палатна. 27—28.6.1944 з брыгадамі 100-й імя Кірава, 258-й імя Куйбышава, 161-й імя Катоўскага захапілі і ўтрымлівалі да падыходу Чырв. Арміі пераправу цераз р. Пціч.

2.7.1944 брыгада [527 партызан; атрады імя Гастэлы, імя Заслонава, імя І. В. Панфілава, імя Дзяніса Давыдава, імя Сыцько (камісар атрада імя Гарбачова партыз. брыгады 25-й імя Панамарэнкі І. В. Сыцько загінуў у баі), кавалерыйскі эскадрон імя Даватара] злучылася з Чырв. Арміяй. У 1976 у пас. Дварэц Любанскага р-на ў гонар брыгады ўстаноўлена мемар. дошка.



Партызаны атрада імя М. Ф. Гастэлы 121-й брыгады імя А. Ф. Брагіна чысцяць зброю.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 123-я АКЦЯ́БРСКАЯ ІМЯ́ 25-ГО́ДДЗЯ БССР.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Акцябрскага, Капаткевіцкага, Петрыкаўскага, Глускага, Жыткавіцкага, Парыцкага р-наў.

Створана ў маі 1942. Улічваючы хуткі рост партыз. атрадаў, іх актыўнасць, у студз. 1942 па ініцыятыве камандавання атрада «Чырвоны Кастрычнік» створана аб'яднанне атрадаў пад назвай «гарнізон» Ф. І. Паўлоўскага» (камандзір Ф. І. *Паўлоўскі*, камісар С. В. *Маханько*, нач. штаба Р. І. Бар'яш). У яго ўвайшлі атрады «Чырвоны Кастрычнік» (арганізаваны ў ліп. 1941), А. Ф. Каваленкі (пазней імя Каваленкі, арганізаваны ў снеж. 1941), М. Б. Храпко, У. М. Шваякова (гл. *Партызанская брыгада 37-я імя А. Я. Пархоменкі),* І. С. Губіна, І. Р. Жулегі (пазней «За Радзіму»), В. І. *Лівенцава* (гл. *Партызанская брыгада 1-я Бабруйская),* А. Г. Балахонава (гл. *Партызанская брыгада 100-я Глуская),* Капаткевіцкі, М. П. *Бумажкова*, У. Ц. Шантара (гл. *Партызанская брыгада 225-я),* Чацвяртнога, Вежнаўца (усяго 1301 партызан). Зімой — вясной 1942 у «гарнізоне» арганізаваны атрады Т. Ц. Жулегі (пазней імя 25-годдзя ВЛКСМ), А. Е. Папругі (пазней «Смерць фашызму»), А. П. Пакуша (пазней імя Чапаева 225-й брыгады), А. Ф. Сарафанава. Каб расшырыць радыус дзеянняў, вясной 1942 атрадам Бумажкова, Храпко, Шваякова, Шантара, Балахонава, Лівенцава, Пакуша дазволена дзейнічаць самастойна. У маі 1942 на базе атрадаў, што асталіся ў «гарнізоне», створана брыгада Ф. І. Паўлоўскага (з лютага 1943 наз. 123-я брыгада, з студз. 1944—123-я імя 25-годдзя БССР). У сак. атрады І. С. Губіна і А. Ф. Сарафанава перададзены 210-й Капаткевіцкай брыгадзе. Камандзіры брыгады Паўлоўскі, Маханько (в. а.), І. М. Мярзляк; камісары Маханько, С. І. Бацішчаў (в. а.), Я. А. *Татараў;* нач. штаба Бар'яш, Жулега, А. Р. Волкаў, Ф. А. Лосеў.

У ліп. 1941 партызаны Ц. П. *Бумажкова* і Паўлоўскага ва ўзаемадзеянні з браняпоездам разграмілі штаб ням. дывізіі ў в. Воземля Акцябрскага р-на, захапілі вял. трафеі, у т. л. аператыўную карту штаба арміі з планам наступлення на гомельска-чарнігаўскім і арлоўскім напрамках, якую перапраўілі камандаванню Чырв. Арміі (гл. *Воземлянскі бой 1941).* У другім баі разграмілі штаб варожай часці, якая размяшчалася ў пас. Глуша Бабруйскага р-на, захапілі 35 аўтамашын, 8 кулямётаў, шмат матацыклаў, знішчылі дзесяткі гітлераўцаў. У ліст. 1942 удзельнічалі ў падрыве моста цераз р. Пціч (рух на чыг. участку Жыткавічы — Калінкавічы спынены на 18 сутак; гл. *Пціцкая аперацыя 1942*), у снеж.— чыг. моста цераз р. Бобрык. Да канца студз. 1944 утрымлівалі Рудобелку, дзе дзейнічалі сав. установы, школы. У лютым 1942 знішчылі варожае падраздзяленне будаўнічага батальёна, якое прыбыло аднавіць разбураны чыг. ўчастак у раёне ст. Муляраўка (гл. *Муляроўская аперацыя 1942).* Разграмілі шмат гарнізонаў ворага, у т. л. ў Капаткевічах (гл. *Капаткевіцкі бой 1942),* Халопенічах, Муляраўцы, Азарычах (гл. *Азарыцкі бой 1942),* Валосавічах, Шкаве, Бярозаўцы, Ламавічах (гл. *Ламавіцкі бой 1942).* Вясной і ўвосень 1942 вялі баі супраць карнікаў у раёне в. Лескі, Шкава, ст. Рабкор Акцябрскага р-на. Толькі на чыг. участку Карпілаўка — Ратміравічы ў жн. і вер. 1943 разбурылі 20 км чыг. палатна, знішчылі 7 мастоў, 7 ліст. правялі паспяховы бой з аб'яднанай варожай групоўкай (8 гарнізонаў) і выйшлі з акружэння, выбілі гітлераўцаў з в. Гаць. У ліст.— снеж. 1943 падарвалі 10 танкаў, 35 аўтамашын, спалілі 14 мастоў, пашкодзілі 6 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі. У ліст. праз лінію ням. фронту ўстанавілі сувязь з 37-й і 60-й стралк. дывізіямі Чырв. Арміі, перадавалі ім звесткі разведкі, забяспечвалі праваднікамі. Арганізатарам партыз. руху ў Палескай вобл. Ц. П. Бумажкову і Паўлоўскаму першым з сав. партызан прысвоена званне Героя Сав. Саюза (жн. 1941).

26.6 і 5.7.1944 брыгада [609 партызан; атрады «Чырвоны Кастрычнік», імя Каваленкі (камандзір атрада А. Ф. Каваленка загінуў у баі ў чэрв. 1942), «За Радзіму», імя 25-годдзя ВЛКСМ, «Смерць фашызму»] злучылася з Чырв. Арміяй. У гонар брыгады ў 1948 у в. Курын Акцябрскага р-на пастаўлены помнік, у 1959 у г. п. Акцябрскі ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 125-я КАПАТКЕ́ВІЦКАЯ.** Дзейнічала на акупіра-

ванай тэр. Капаткевіцкага і Петрыкаўскага р-наў.

Створана ў студз. 1943 на базе атрадаў Капаткевіцкага, «Балотнікава» (І. Н. Глушко), М. Ф. Бабкова, Р. І. Краўца, А. Р. Волкава (з вер. 1943 атрад 39-ы), 2-га Капаткевіцкага. Камандзіры брыгады А. А. *Жыгар*, М. Д. Куранаў; камісары І. В. *Скалабан*, Ф. Дз. Кудравец; нач. штаба А. П. Карнейчык, В. А. Вялігін, А. А. Асокін, І. П. Юрасаў. У сак. 1943 атрад Краўца перададзены брыгадзе 210-й Капаткевіцкай. У чэрв. атрад 2-і Капаткевіцкі вылучаны ў самастойны і вызначаны як штабны. У ліп. 1943 з брыгады вылучаны атрады «Балотнікава» і Бабкова і на іх базе створана *партызанская брыгада 130-я Петрыкаўская*. У вер. 1943 у складзе брыгады створаны 55-ы атрад, які 22.2.1944 (55 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй. У снеж. 1943 на базе 17-га, 27-га і 39-га атрадаў створана *партызанская брыгада 150-я імя Ф. М. Языковіча*.

Партызаны праводзілі аперацыі на чыг. участку Лунінец — Гомель, на шашэйных і грунтавых дарогах. У жн. 1943 падарвалі больш за 1,7 тыс. рэек, у ноч на 24.6.1944 на ўчастку Старушкі — Бабруйск — больш за 270 рэек, у сак. і чэрв. 1943, крас. 1944 вялі баі супраць карнікаў па ліквідацыі варожых гарнізонаў, у т. л. ў в. Муляраўка Петрыкаўскага р-на. У крас.— чэрв. 1944 дзейнічалі ў прыфрантавой палосе ням.-фаш. войск, здабывалі і перадавалі Чырв. Арміі каштоўныя звесткі разведкі.

29.6.1944 брыгада [372 партызаны; атрады 45-ы імя Маставога (камандзір атрада І. І. Маставы загінуў у баі ў сак. 1944), 78-ы дыверсійны, 25-ы] злучылася з Чырв. Арміяй. Камандзіру 78-га дыверсійнага атрада Р. А. *Такуеву* і камандзіру дыверсійнай групы Ф. А. *Малышаву* прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1975 у г. п. Капаткевічы і в. Новыя Галоўчыцы Петрыкаўскага р-на ў гонар брыгады ўстаноўлены мемар. дошкі.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 130-я ПЕ́ТРЫКАЎСКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Петрыкаўскага, Жыткавіцкага, Лельчыцкага, Старадарожскага р-наў.

Створана 27.7.1943 на базе атрадаў Р. І. Краўца (арганізаваны ў вер. 1941), «Балотнікава» (І. Н. *Глушко*, арганізаваны ў жн. 1942), М. Ф. Бабкова (арганізаваны ў кастр. 1942). У жн. створаны атрад А. І. Трухановіча (пазней 136-ы), які 25.1.1944 (250 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй, у жн. — атрад І. В. Дубіка (пазней 138-ы), які 19.1.1944 (208 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй. Камандзіры брыгады І. В. *Скалабан*, М. А. Волкаў, камісар Глушко, нач. штаба У. І. Кулак.

У ліст.— снеж. 1942 партызаны ўдзельнічалі ў падрыве мастоў на р. Пціч і Бобрык (гл. *Пціцкая аперацыя 1942*). Вялі адкрытыя і засадныя баі, у т. л. каля в. Міхедавічы (22.2.1943) Капаткевіцкага, в. Бабунічы (26—27.5.1943, гл. *Бабуніцкі бой 1943*), Асавец (28.7 і 2.8.1943) Петрыкаўскага р-наў, на дарозе Конкавічы — Балажэвічы (24.8.1943). У сак. 1943 каля в. Капцэвічы падарвалі некалькі машын з жывой сілай ворага. 21.8.1943 разграмілі гарнізон праціўніка, які ахоўваў чыг. ўчастак Муляраўка — Коржаўка. У жн.— вер. 1943 на чыг. участку Лунінец — Калінкавічы падарвалі больш за 2 тыс. рэек, у лют. — чэрв. 1943 і крас. 1944 вялі баі з карнікамі.

6.7.1944 брыгада [757 партызан; атрады 132-і (раней Краўца), 125-ы (раней «Балотнікава»), 135-ы (раней Бабкова), 133-і (раней П. І. Арцюха)] злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 130-я «ПО́МСТА»** (партызанскі атрад 130-ы «Помста»). Дзейнічала на акупіраванай тэр. Бярэзінскага, Бялыніцкага і Магілёўскага р-наў.

У ліп. 1942 створаны атрад «Помста», у вер. ўвайшоў у Клічаўскі аператыўны цэнтр пад № 130, у ліст. 1942— маі 1943 у 3-й Бярэзінскай брыгадзе, з ліп. 1943 асобны атрад Бярэзінскай ВАГ. Камандзіры В. В. Беражной (загінуў), В. В. *Лазараў*; камісары С. Ц. Крыварот, М. С. Фралоў, П. А. Рыняк, М. А. Цітоў; нач. штаба М. С. Фралоў.

Партызаны ў жн. 1942 узарвалі вадакачку на чыг. ст. Дашкаўка, у жн. 1943 падарвалі 200 рэек. У жн., кастр. 1942, маі 1943, студз. 1944 удзельнічалі ў баях з карнікамі, у снеж. 1943 — у засадным баі на шашы Мінск — Магілёў. У час наступлення Чырв. Арміі наносілі ўдары па ворагу каля в. Галынка Бярэзінскага р-на. 2.7.1944 атрад (484 партызаны) злучыўся з Чырв. Арміяй. Пасля злучэння БШПР вызначыў атрад з кастр. 1943 як брыгаду ў складзе 3 атрадаў.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 150-я ІМЯ́ Ф. М. ЯЗЫКО́ВІЧА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Дамачоўскага, Дзівінскага, Целяханскага, Драгічынскага р-наў БССР і Любяшоўскага р-на Валынскай вобл. Створана ў снеж. 1943 у Капаткевіцкім р-не на базе 3 атрадаў, вылучаных *партызанскай брыгадай 125-й Капаткевіцкай*.

Камандзір В. А. Вялігін, камісар С. М. Падута, нач. штаба М. І. Гардзіенка. Брыгадзе нададзена імя сакратара Палескага падп. абкома КП(б)Б Ф. М. Языковіча, які загінуў у крас. 1943. У снеж. 1943— студз. 1944 ажыццявіла рэйд у Дамачоўскі р-н.

Партызаны разам з інш. брыгадамі і атрадамі Паўд. зоны Брэсцкай вобл. толькі ў лютым — сак. 1944 правялі 27 баёў, удзельнічалі ў абароне партыз. зоны ў раёне Дняпроўска-Бугскага канала. Пасля злучэння з Чырв. Арміяй брыгада ўключана ў баявы парадак 160-й дывізіі на ўчастку абароны правага берага Прыпяці ў Любяшоўскім р-не.

30.3.1944 брыгада [541 партызан; атрады 17-ы (Капаткевіцкі, створаны ў чэрв. 1943 з часткі асабовага складу расфарміраванага Капаткевіцкага атрада, які дзейнічаў з жн. 1941 у Палескай вобл.), 27-ы імя Ленінскага камсамола, 39-ы імя В. Н. Бажэнкі] злучылася з Чырв. Арміяй.



Група партызан брыгад 150-й імя Ф. М. Языковіча і імя І. В. Сталіна (Брэсцкая вобл.).

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 161-я ІМЯ́ Р. І. КАТО́ЎСКАГА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Асіповіцкага, Глускага, Старадарожскага р-наў.

Створана ў студз. 1943 на базе атрадаў А. С. *Шашуры* (пазней імя Пархоменкі, арганізаваны ў крас. 1942), Ф. М. Анісімава (пазней імя Дзяржынскага, арганізаваны ў жн. 1941), імя Чалюскінцаў (пазней імя Шашуры, арганізаваны ў крас. 1942), у крас. 1944 у склад брыгады ўключаны асобны атрад імя Варашылава. Камандзіры брыгады Шашура (загінуў), А. І. *Кудашаў*, камісары Кудашаў, П. І. *Разувакін* (загінуў), М. С. Паланейчык, нач. штаба В. Р. Лабзін.

Партызаны праводзілі аперацыі на

чыгунках і шашы Мінск—Бабруйск, Асіповічы—Слуцк; у «рэйкавай вайне» падарвалі больш за 3 тыс. рэек. Разграмілі варожыя гарнізоны на торфапрадпрыемстве «Ясень», чыг. ст. Дзераўцы, у в. Мяжное Асіповіцкага р-на. Удзельнічалі ў падрыве чыг. моста цераз р. Бобрык. 27—28.6.1944 разам з брыгадамі 100-й імя Кірава, 258-й імя Куйбышава, 121-й імя Брагіна захапілі і ўтрымлівалі да падыходу Чырв. Арміі пераправу цераз р. Пціч. 5—16.7.1944 удзельнічалі ў ліквідацыі асобных груп ворага ў Старадарожскім р-не. 28.6.1944 брыгада (938 партызан, атрады імя Дзяржынскага, імя Пархоменкі, імя Шашуры, імя Молатава, імя Кірава, імя Варашылава) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 200-я ІМЯ́ К. К. РАКАСО́ЎСКАГА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Дзяржынскага р-на.

Створана ў жн. 1943 на базе атрадаў «25 гадоў Кастрычніка» і імя Дз. А. Фурманава, вылучаных з *партызанскай брыгады 300-й імя К. Я. Варашылава.* Камандзір М. Ю. Баранаў, камісар П. Р. Мартысюк, нач. штаба І. Ф. Ягораў.

Партызаны з брыгадамі 300-й імя Варашылава і 27-й імя Чапаева разграмілі варожую аўтакалону на шашы Мінск — Слуцк каля в. Цялякава Уздзенскага р-на (снеж. 1943); на чыгунцы Мінск—Баранавічы ўзрывалі эшалоны; 6—7.7.1944 каля в. Станькава Дзяржынскага р-на з часцямі Чырв. Арміі ўдзельнічалі ў разгроме ням.-фаш. войск, якія прарываліся з акружэння.

4.7.1944 брыгада (1187 партызан; атрады «25 гадоў Кастрычніка», імя Фурманава, імя Чкалава, імя Дзяржынскага) злучылася з Чырв. Арміяй. Партызану Марату *Казею* прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 210-я КАПАТКЕ́ВІЦКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Капаткевіцкага і Даманавіцкага р-наў.

Створана ў сак. 1943 на базе атрадаў П. Я. Ігуменава, Р. І. Крауца, І. С. Губіна, А. Ф. Сарафанава, І. А. Бабіча. Камандзір брыгады І. М. *Кулікоўскі*; камісары К. Ф. Пінчук, І. П. Плыткевіч; нач. штаба В. М. Васільеў. У ліп. 1943 брыгада расфарміравана. Атрад Крауца вылучаны для фарміравання *партызанскай брыгады 130-й Петрыкаўскай*, атрад Я. Г. Гулевіча перададзены *партызанскай брыгадзе 99-й Калінкавіцкай*, атрады Ігуменава і Бабіча ў вер. 1943 аб'яднаны ў *партызанскую брыгаду 100-ю Глускую*, атрады Губіна і Сарафанава вылучаны ў самастойныя.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 225-я.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Глускага, Жыткавіцкага, Акцябрскага р-наў.

Створана ў сак. 1943 на базе атрадаў У. Ц. Шантара (пазней імя Гастэлы, арганізаваны ў ліст. 1941), М. П. *Бумажкова* (пазней імя Суворава, арганізаваны ў студз. 1942) і А. П. Пакуша (пазней імя Чапаева, пачаў стварацца ў ліп. 1941 у Акцябрскім р-не, сфарміраваны ў лют. 1942). Камандзіры брыгады Бумажкоў, У. З. *Пуцята*; камісары Б. К. *Зялёнка,* У. А. *Станкевіч;* нач. штаба Пуцята, А. Я. Шчацько.

Партызаны зрывалі варожыя перавозкі па чыгунках і шашэйных дарогах. У ліст.— снеж. 1942 удзельнічалі ў падрыве мастоў на р. Пціч і Бобрык (гл. *Пціцкая аперацыя 1942*), разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Катка (гл. *Каткоўская аперацыя 1942*), Халопенічы, Харомцы, Слабодка і інш. Падрыўнік В. Санчукоўскі (загінуў вясной 1944) пусціў пад адхон 18 эшалонаў. Партызаны толькі 12.8.1943 на чыг. участку Брынёва — Старушкі падарвалі 600 рэек, у лютым 1944—2 бронепаязды.

26.6.1944 брыгада (475 партызан; атрады імя Гастэлы, імя Суворава, імя Чапаева, імя Сільніцкага) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 225-я ІМЯ́ А. В. СУВО́РАВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Слуцкага, Грэскага р-наў.

Створана ў снеж. 1942 на базе атрадаў імя Будзённага, імя Суворава (арганізаваны ў ліп. 1942), імя Фрунзе (арганізаваны ў кастр. 1942), вылучаных *партызанскай брыгадай імя К. Я. Варашылава* Мінскай вобл. На базе атрадаў, вылучаных з брыгады, створана *партызанская брыгада 95-я імя М. В. Фрунзе.* Камандзіры Л. П. Стафанюк, І. В. *Арастовіч,* А. М. *Каляда;* камісары П. І. *Разувакін,* І. М. *Ражкоў,* У. І. *Заяц*; нач. штаба К. А. Прыгуноў, М. М. Цімашэнка.

Партызаны праводзілі дыверсіі на камунікацыях ворага. У жн. 1943 на ўчастках Воўчкавічы — Фаніпаль, Талька — Пухавічы, Слуцк — Цімкавічы падарвалі 1,4 тыс. рэек. У крас. 1943 каля в. Шчыткавічы Старадарожскага р-на, у крас. 1944 ва ўсх. частцы Грэскага р-на вялі баі з карнікамі.

29.6.1944 брыгада (1040 партызан; атрады імя Суворава, імя Фрунзе, імя М. А. Астроўскага, імя Чкалава, імя 26-годдзя Кастрычніка) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1969 у в. Палікараўка Слуцкага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнік.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 258-я ІМЯ́ В. У. КУ́ЙБЫШАВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Любанскага, Старобін-



Партызаны 161-й брыгады імя Р. І. Катоўскага на прывале.



Камандаванне 200-й партызанскай брыгады імя К. К. Ракасоўскага. Злева направа: начальнік штаба брыгады І. Ф. Ягораў, камісар П. Р. Мартысюк, камандзір брыгады М. Ю. Баранаў, памочнік камісара па камсамолу М. Я. Новікаў. Студзень 1944.

скага, Старадарожскага, Глускага, Акцябрскага р-наў.

Створана ў снеж. 1943 на базе атрадаў імя Чапаева (арганізаваны ў снеж. 1941), імя Труцікава (арганізаваны ў чэрв. 1943; старшыня калгаса, камуніст з 1917 А. М. Труцікаў забіты гітлераўцамі), імя Будзённага (арганізаваны ў вер. 1943). Камандзір Г. М. *Сталяроў;* камісар В. І. *Смірноў;* нач. штаба В. П. Волгаў, В. С. Дунаеў.

Партызаны ўдзельнічалі ў знішчэнні чыг. мастоў цераз р. Пціч і Бобрык, у жн. 1943 — у масавым разбурэнні чыг. палатна, у 1943 папсавалі 12,4 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі. У студз., сак. і крас. 1944 вялі баі з карнікамі. Разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Даколь, Клетнае, Малінава, Касарычы Глускага, Харомцы Акцябрскага, Сінягова Старадарожскага р-наў. 27—28.6.1944 разам з брыгадамі 100-й імя Кірава, 161-й імя Катоўскага і 121-й імя Брагіна захапілі і ўтрымлівалі да падыходу Чырв. Арміі пераправу цераз р. Пціч.

28.6.1944 брыгада [287 партызан; атрады імя Чапаева (створаны ў снеж. 1941), імя Труцікава, імя Будзённага] злучылася з Чырв. Арміяй. У 1967 у в. Азярное Любанскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнік.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 300-я ІМЯ́ К. Я. ВАРАШЫ́ЛАВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Капыльскага, Уздзенскага, Дзяржынскага, Чырвонаслабодскага, Нясвіжскага р-наў.

Створана ў снеж. 1942 на базе атрадаў імя Катоўскага (арганізаваны ў сак. 1942 на базе групы В. Р. *Яроменкі,* якая дзейнічала з вер. 1941), «Баявы» (пазней *партызанскі атрад «Баявы» імя Дунаева*), імя Пархоменкі, вылучаных *партызанскай брыгадай імя К. Я. Варашылава.* У жн. 1943 атрады «Баявы» і імя Аляксандра Неўскага перададзены ў Беластоцкае партыз. злучэнне; на базе атрадаў «25 гадоў Кастрычніка» і імя Фурманава створана *партызанская брыгада 200-я імя К. К. Ракасоўскага.* У вер. 1943 вылучаны атрад імя Пархоменкі, у маі 1944 на яго базе створана *партызанская брыгада 32-я імя М. І. Калініна.* Камандзір Яроменка; камісары І. С. *Савелаў,* М. С. *Сцяпанаў;* нач. штаба Я. П. Грыцаневіч, М. Ю. *Баранаў,* І. І. Радчанка.

Партызаны ў жн. 1943 удзельнічалі ў «рэйкавай вайне» (перагон Коласава — Негарэлае); 20.6.1944 на чыг. участку Баранавічы — Цімкавічы падарвалі больш за 400 рэек. У лютым 1943 вялі баі з карнікамі, прарвалі блакаду і выйшлі ў паўн.-ўсх. раёны Пінскай вобл., потым у Капыльскі р-н, дзе 12.4.1943 правялі баі каля в. Заракаўцы і Савічы і выйшлі ў Уздзенскі р-н. 14.12.1943 разам з брыгадамі 27-й імя Чапаева, 200-й імя Ракасоўскага на шашы Мінск — Слуцк каля в. Валяр'яны разграмілі варожую аўтакалону: разбілі 20 грузавых, 1 легкавую аўтамашыны, падбілі бранявік, 3 гарматы. У баі праціўнік страціў каля 170 салдат. 28.6.1944 занялі г. п. Узда і ўтрымлівалі яго да падыходу Чырв. Арміі. 2.7.1944 брыгада (1204 партызаны; атрады імя Катоўскага, «Патрыёт Радзімы», імя Кутузава, імя Багдана Хмяльніцкага) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА 760-я ІМЯ́ М. БЕРАЗО́ЎСКАГА** (партызанскі атрад 760-ы імя М. Беразоўскага). Дзейнічала на акупіраванай тэр. Клічаўскага, Бялыніцкага, Шклоўскага, Магілёўскага і Крупскага р-наў.

Атрад пачаў стварацца ў лют. 1942, з крас. 1942 у Клічаўскім аператыўным цэнтры, з ліст. 1942 у 5-й Клічаўскай брыгадзе, з мая 1943 у 6-й Магілёўскай брыгадзе, з ліп. асобны атрад Бялыніцкай ВАГ. У снеж. 1942 нададзена імя Беразоўскага. М. Беразоўскі — адзін з арганізатараў атрада, геройскі загінуў у баі. Камандзіры Г. М. Колбнеў (загінуў), Р. І. *Перасценка*; камісар В. М. Міхайлаў; нач. штаба І. Я. Лантухоў (загінуў), М. А. Баранаў, К. І. Ражаў.

Партызаны праводзілі баявыя дзеянні на чыгунках Барысаў — Орша, Орша — Магілёў, Магілёў — Асіповічы і на шашэйных дарогах. Удзельнічалі ў разгроме варожых гарнізонаў у г. п. Клічаў і в. Дручаны (крас. 1943), г. п. Бялынічы (вер. 1943, гл. *Бялыніцкія аперацыі 1943*). Вялі баі з карнікамі, абарочныя баі. 20.6.1944 удзельнічалі ў захопе чыг. ўчастка Шклоў — Лотва, падарвалі 846 рэек. 30.6.1944 атрад (487 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй. Пасля злучэння БШПР вызначыў атрад з вер. 1943 як брыгаду ў складзе 3 атрадаў.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА АСВЕ́ЙСКАЯ ІМЯ́ М. В. ФРУ́НЗЕ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Асвейскага, Расонскага і Дрысенскага р-наў.

Створана ў ліп. 1942 на базе асобнай групы партыз. атрадаў Асвейскага р-на, якая ўваходзіла ў брыгаду «За Савецкую Беларусь» (пазней *партызанская брыгада імя К. К. Ракасоўскага).* У снеж. 1943 брыгада (1169 чал.) пасля баёў з карнікамі выйшла ў сав. тыл (без атрада імя Арджанікідзе), дзе 2-і атрад імя Фрунзе і атрад імя Жданава былі расфарміраваны. У лют. 1944 брыгада (206 чал.) зноў прыбыла ў Асвейскі р-н. Камандзіры брыгады І. К. *Захараў,* М. М. Кузьмін; камісары В. П. *Уладзіміраў* (загінуў),



Гарматны разлік партызанскага атрада імя Р. І. Катоўскага 300-й брыгады імя К. Я. Варашылава.



Група партызан атрада імя Р. К. Арджанікідзе Асвейскай брыгады імя М. В. Фрунзе.

А. І. *Сяргушка*, А. А. *Бохан*; нач. штаба А. Д. Мядзведзеў, А. І. Трафімаў, Ц. Ф. Радзіёнаў, Г. Ахмедзяраў.

Разам з партыз. брыгадамі Дрысенскай (пазней 1-я Дрысенская) і «За Савецкую Беларусь» партызаны брыгады правялі аперацыю па разгрому варожых гарнізонаў на чыг. ст. Борkaвічы і Дрыса (кастр. 1942), разграмілі гарнізоны ў в. Вецслабада (гл. *Вецслабадскі бой 1943*, студз.), Ксяверына Латвійскай ССР, Каханавічы, Кабыльнікі Асвейскага р-на, Глямбочына Себежскага р-на Калінінскай вобл., Саўчонкі і Балотнікі (крас. 1943) Дрысенскага р-на. Вялі баі з карнікамі ў лют.— сак., ліст.— снеж. 1943, сак.— маі 1944. У аперацыі «рэйкавая вайна» на ўчастках Дрыса — Марцінава, Маразы — Паноры, Дрыса — Бігосава падарвалі больш за 2 тыс. рэек. У ноч на 8.7.1944 з баямі захапілі бальшак Полацк — Асвея каля в. Маскалёнкі — Стралкі і не давалі магчымасці ворагу адступаць.

13.7.1944 брыгада [345 партызан; атрады імя Фрунзе (створаны ў крас. 1942 з удзельнікаў *Асвейскага партыйна-патрыятычнага падполля* і *Прошкаўскага камсамольска-маладзёжнага падполля*), імя Сімацкага (створаны ў ліп. 1942, да кастр. імя Жданава; камандзір атрада У. У. Сімацкі загінуў), імя Арджанікідзе (створаны ў ліп. 1942), імя Катоўскага (створаны ў вер. 1942)] злучылася з Чырв. Арміяй. Камандзіру брыгады Захараву прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1964 у в. Марачкова Расонскага р-на ў гонар брыгады насыпаны курган, пастаўлены абеліск, у 1962 у г. Верхнядзвінск і ў 1975 у г. п. Асвея ў гонар брыгады ўстаноўлены мемар. дошкі.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА БАГУШЭ́ЎСКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Багушэўскага, Аршанскага і Гарадоцкага р-наў.

Створана ў чэрв. 1942 у Багушэўскім р-не на базе атрадаў В. У. Бойкі (1-га. у варожым тыле ў лютым — жн. 1942), імя Варашылава (2-га, з восені 1942 у партыз. брыгадзе 1-й імя Заслонава), імя Суворава (арганізаваны ў маі 1942, потым 3-і), І. І. Кржасінскага (сфарміраваны ў кастр. 1941— сак. 1942, потым 4-ы) і П. І. *Кірылава* (арганізаваны ў маі 1942, 5-ы, потым 1-ы атрад), у ліп. 1942 увайшоў атрад Б. Ц. Гарнака (6-ы, у жн. рассеяны). Камандзіры брыгады Бойка, Кірылаў, М. П. Крэсік (загінуў); камісары В. А. *Манохін*, С. А. Дзятлоўскі, А. К. *Стэльмах;* нач. штаба М. К. Вайцяхоўскі, В. П. Лаўкоў.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунках Віцебск—Орша, Орша—Смаленск, шашэйных і грунтавых дарогах. У ліп. 1942 каля воз. Ардышава і ў студз. 1943 у в. Паддуб'е Суражскага р-на ўдзельнічалі ў баях з карнікамі. Разграмілі апорныя пункты ворага ў в. Буда і Клюкаўка Багушэўскага р-на. У лют.— сак. ўдзельнічалі ў цяжкіх баях з карнікамі, панеслі вял. страты. 10.3.1943 брыгада (125 партызан; атрады 1-ы, імя Суворава 3-і, 4-ы) выйшла ў сав. тыл і расфарміравана. У 1960 у в. Гаркава Віцебскага р-на ў гонар брыгады ўстаноўлена мемар. дошка, у 1962 у в. Сафіёўка Аршанскага р-на пастаўлены помнік.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА БАГУШЭ́ЎСКАЯ** (2-га складу). Дзейнічала на акупіраванай тэр. Багушэўскага, Чашніцкага, Лепельскага і Халопеніцкага р-наў.

Створана ў вер. 1943 на базе атрада імя Суворава, вылучанага з *партызанскай брыгады 1-й імя К. С. Заслонава*, асабовага складу, вылучанага *партызан-*



Група каманднага саставу Асвейскай брыгады імя М. В. Фрунзе. 1943.



Нарада каманднага саставу брыгады «Буравеснік». Ліпень 1944.



Партызаны Багушэўскай брыгады. Злева направа: начальнік штаба брыгады М. К. Вайцяхоўскі, камісар атрада імя А. В. Суворава (3-га) П. П. Ліксо, камандзір брыгады В. У. Бойка, камандзір разведкі С. Сокал.



Партызаны брыгады «Буравеснік» вяртаюцца з баявой аперацыі.

*скай брыгадай Сенненскай,* і з мясцовых жыхароў. Камандзір Я. М. *Прахарэнка;* камісар П. М. *Шарыпа;* нач. штаба В. П. Лаўкоў, С. Б. Лісецкі.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунках Віцебск — Орша, Орша — Мінск, на шашы Багушэўск — Сянно і інш. Разграмілі варожы гарнізон у в. Чудня (ліст. 1943) Багушэўскага р-на. Удзельнічалі ў *Лепельскай аперацыі 1943,* прыкрываючы з У ударную лепельскую групоўку. У сак. 1944 у цяжкіх баях стрымлівалі наступленне ворага каля в. Уздорнікі, Баркі, Кавельшчына, на рубяжы в. Горы — Вяцера Чашніцкага р-на і перакрылі шлях да партыз. аэрадрома на воз. Ямнае. У маі — чэрв. 1944 вялі баі з карнікамі, трымалі абарону на лініі в. Студзёнка — Баравуха — Сівы Камень, на ўчастку в. Майсееўшчына — Старына Халопеніцкага р-на прарвалі варожую блакаду. Разам з часцямі Чырв. Арміі разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Бабаедава і Заполле Сенненскага р-на. Каля в. Чарэя Чашніцкага р-на перарэзалі шлях адступлення праціўніку, што дало магчымасць часцям Чырв. Арміі захапіць у палон прыпасаў і гаручага. Самастойна і з інш. партыз. фарміраваннямі разграміў гарнізоны ворага ў в. Асінаўка, Рудня-Барталамееўская, Будзішча, Валосавічы, Палессе Чачэрскага, Казацкія Балсуны, Пералёўка Свяцілавіцкага, Баршчоўка Лоеўскага, Узнаж Васілевіцкага, Якімаўка Гомельскага р-наў; у ліст. 1943 разам з брыгадамі «Жалязняк», імя Панамарэнкі і атрадам 108-м імя Катоўскага напалі на варожы гарнізон у в. Горваль Рэчыцкага р-на і захапілі калону аўтамашын. Разам з часцямі Чырв. Арміі вялі баі каля в. Баравікі і чыг. ст. Шацілкі.

23.11.1943 брыгада (531 партызан; атрады «Бальшавік», «Патрыёт Радзімы», імя Чкалава) злучылася з Чырв. Арміяй. Камандзірам дыверсійных груп Ф. П. *Котчанку* і А. Л. *Ісачанку* прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1967 каля пас. Барэц Гомельскага р-на ў гонар брыгады пастаўлена стэла.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «БЕЛАРУ́СЬ».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Рудзенскага і Пухавіцкага р-наў.

Створана ў сак. 1943 на базе атрадаў «Беларусь» (арганізаваны ў жн. 1941), К. В. Сідзякіна (пазней «Мсцівец», арганізаваны ў ліст. 1942), імя Сталіна (арганізаваны ў чэрв. 1942 на базе групы У. П. Адамовіча, у студз. 1944 вылучаны ў самастойны), «Буравеснік» (арганізаваны ў снеж. 1941, з чэрв. 1943 дзейнічаў самастойна). Камандзіры М. П. *Пакроўскі,* А. С. *Юркаўцоў*; камісары М. З. Крамко, І. М. Блажноў; нач. штаба Юркаўцоў, Ф. Р. Шыхаўцоў, У. Т. Талкачоў, Ю. І. Яфімкін.

Партызаны ў аперацыі «рэйкавая вайна» падарвалі больш за 520 рэек, папсавалі больш за 2,7 км чыг. палатна. Правялі 53 дыверсіі на мастах, падарвалі 61 аўтамашыну. У вер. 1943, лютым і маі 1944 вялі баі з карнікамі. 30.6—4.7.1944 разам з воінамі 73-й стралк. дывізіі вялі баі з ворагам, які адступаў. У ліп. 1944 брыгада (1029 партызан; атрады «Беларусь», «За Радзіму», «Бальшавік») злучылася з Чырв. Арміяй. Камандзіру брыгады Пакроўскаму прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1973 у в. Русаковічы Пухавіцкага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнік.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «БУРАВЕ́СНІК».** Дзейнічала на акупіраванай



Радыст партызанскай брыгады «Буравеснік» В. А. Анцыгін прымае радыёграму з Масквы.



Конная разведка партызанскага атрада «Бальшавік» брыгады «Бальшавік».

вял. колькасць гітлераўцаў. 29.6.1944 брыгада (651 партызан; атрады 1-ы імя Шчорса, 2-і імя Суворава, 3-і імя Катоўскага, 4-ы імя Чапаева, 5-ы імя Варашылава, 6-ы імя Лазо) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «БАЛЬШАВІ́К».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Гомельскага, Добрушскага, Веткаўскага, Свяцілавіцкага, Кармянскага, Лоеўскага, Буда-Кашалёўскага, Уваравіцкага, Чачэрскага, Рэчыцкага, Васілевіцкага, Хойніцкага р-наў.

Створана ў кастр. 1943 на базе атрада «Бальшавік» (арганізаваны ў жн. 1941). Камандзір брыгады І. Ф. Гамарка, камісар В. М. Палянічка.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунках і шашэйных дарогах Гомель—Калінкавічы, Гомель—Жлобін. У ліп.— жн. 1943 атрад «Бальшавік» падарваў 42 варожыя эшалоны, у баях знішчыў больш за 40 аўтамашын, у Навабеліцы падарваў склады бое-



Група партызан атрада «Бальшавік». 1943.

тэр. Уздзенскага, Рудзенскага, Пухавіцкага р-наў.

Створана ў снеж. 1943 на базе атрада «Буравеснік» (арганізаваны ў снеж. 1941 на базе груп М. Х. *Балана,* М. Г. *Мармулёва*). Камандзір Мармулёў; камісар І. М. *Рабуха;* нач. штаба П. П. Болдыраў, П. С. Лавецкі.

Партызаны праводзілі баявыя аперацыі на камунікацыях ворага. 10.6.1943 разграмілі аўтакалону на дарозе Шацк — Валяр'яны; 5.11.1943 на дарозе Валяр'яны — Узда знішчылі 34 аўтамашыны. У маі 1944 разграмілі варожы гарнізон у в. Загай Пухавіцкага р-на. У студз., маі, чэрв. 1944 вялі баі з карнікамі. 28.6.1944 занялі в. Шацк і ўтрымлівалі яе да падыходу Чырв. Арміі. 3—12.7.1944 разам з Чырв. Арміяй удзельнічалі ў ліквідацыі варожай групоўкі.

3.7.1944 брыгада (537 партызан; атрады «Буравеснік», імя Громава, імя Кутузава) злучылася з Чырв. Арміяй. Камандзіру брыгады Мармулёву прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1960 у в. Омельна Пухавіцкага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнік, у 1975 у в. Каладзіно Уздзенскага р-на ўстаноўлены мемар. дошкі.



Партызанская «паштовая скрынка», якою карысталіся партызаны брыгады «Беларусь».

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ВАСІЛЕ́ВІЦКАЯ І́МЯ П. К. ПАНАМАРЭ́НКІ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Васілевіцкага р-на.

Створана 31.10.1943 на базе атрада імя Панамарэнкі (арганізаваны ў крас. 1943), разбуйненага на 3 атрады. Камандзір С. А. Смерцін, камісар П. П. Гудаў, нач. штаба В. П. Алісейка.

У маі 1943 партызаны разам з 101-й Даманавіцкай брыгадай каля ст. Жэрдзь на значным участку пашкодзілі чыг. палатно, знішчылі 2 масты, у чэрв. разбілі варожы гарнізон у в. Савічы, у жн. (з 99-й Калінкавіцкай і 101-й Даманавіцкай брыгадамі) разграмілі буйны гарнізон у в. Ведрыч (гл. *Ведрыцкі бой 1943),* вывелі са строю чыг. ўчастак Галявіцы — Калінкавічы. Правялі некалькі адкрытых і засадных баёў, у т. л. ў чэрв. 1943 каля в. Залатуха супраць карнай экспедыцыі, у жн. каля в. Асташкавічы. Аперацыю «рэйкавая вайна» праводзілі на чыг. участку Васілевічы — Нахаў, удзельнічалі ў вызваленні Васілевіч. 17.11.1943 брыгада (365 партызан; атрады 5-ы, 7-ы, 9-ы) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1975 у в. Гогалева Калінкавіцкага р-на ў гонар брыгады ўстаноўлена мемар. дошка.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «ГРАЗА́».** Да ліп. 1943 мела назву брыгада «Дзядзькі Колі». Дзейнічала на акупіраванай тэр. Талачынскага і Чашніцкага р-наў.

Створана ў жн. 1942 на базе атрада «Граза», які ў ліп. прыбыў з сав. тылу, і мясцовай партыз. групы С. Т. Баранава (27 чал.), якая дзейнічала з сак. 1942 у Талачынскім р-не. Камандзіры М. А. *Рашэтнікаў,* С. М. *Нарчук* (загінуў Дз. М. Катлярчук, А. Дз. Варашэнь (в. а.); камісар Нарчук; нач. штаба Катлярчук, Л. К. Кіпрыянец, Р. М. Аўчыннікаў.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыг. участку Талачын — Орша і на грунтавых дарогах. У жн. 1943 на чыг. участку ст. Пярэвалачня — Коханава падарвалі больш за 500 рэек. Вялі баі каля в. Рыдамля Талачынскага р-на (вер. 1943), утрымлівалі абарону ў в. Чарэя — Стражавічы — Белая Царква (кастр. 1943, гл. арт. *Лепельская аперацыя 1943),* вялі баі каля в. Слідчаны (сак. 1944) Чашніцкага р-на, каля в. Рафалова (снеж. 1943), Усвейка, Мураўнічы (студз. 1944) Талачынскага р-на. У лют. 1944 разграмілі гарнізон у в. Курчоўская Усвейка Талачынскага р-на. У маі 1944 разам з партыз. брыгадай М. П. Гудкова ўдзельнічалі ў баі каля в. Бароўка Лепельскага р-на.



Партызаны Добрушскай брыгады імя І. В. Сталіна.

26.6.1944 брыгада (673 партызаны; атрады «Перамога», «Сцяг», імя Аляксандра Неўскага, «За Радзіму», імя Катоўскага, імя Суворава, «За Савецкую Беларусь», імя Фрунзе, імя Гастэлы) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1977 у в. Янава Талачынскага р-на ў гонар брыгады ўстаноўлена мемар. дошка, у 1980 каля вёскі пастаўлена стэла.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА М. П. ГУДКО́ВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Талачынскага, Сенненскага, Чашніцкага, Лепельскага, Халопеніцкага і Крупскага р-наў.

Створана ў жн. 1942 на базе асобных атрадаў М. П. *Гудкова* і В. С. *Лявонава* (арганізаваны вясною 1942). У вер. 1942 у час баёў з карнікамі большасць асабовага складу брыгады (больш за 200 чал.) увайшла ў *партызанскую брыгаду Сенненскую.* У ліст. 1942 аднаўлена ў складзе 2 атрадаў. Камандзір Гудкоў; камісары Лявонаў, І. Р. Фінагееў, Ф. П. *Ігнатовіч;* нач. штаба В. Дз. Сыценка, Р. С. Арэшыч (в. а.), Я. Ф. Рукаль.

На чыг. участку Коханава — Бобр партызаны падарвалі больш за 40 эшалонаў ворага, у жн. 1943 на ўчастку Коханава — Талачын — больш за 500 рэек. У жн. 1942 разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Відокі Сенненскага, Вятны Чашніцкага і ў крас. 1944 у в. Шэйкі Крупскага р-наў. У кастр. 1943 удзельнічалі ў абароне в. Чарэя Чашніцкага р-на. У 1944 вялі абарончыя баі на рубяжы в. Болюта — Калодніца, в. Чарэя — Лукомль Чашніцкага р-на. У маі 1944 удзельнічалі ў баях супраць карнай экспедыцыі, утрымлівалі абарону каля в. Сівы Камень 2-і Халопеніцкага р-на. У чэрв. 1944 удзельнічалі ў прарыве варожай блакады на шашы Лепель — Барысаў і Сялец — Бягомль.



Камандаванне атрада «Бура» брыгады «Дзядзькі Колі». Злева направа: начальнік штаба атрада Б. П. Голуб, камандзір Ф. А. Фядэнка, камісар П. В. Мурашка.

26.6.1944 брыгада (632 партызаны; атрады 1-ы імя Кутузава, 2-і імя Шчорса, 3-і «Ураган», 4-ы, 5, 6, 7-ы) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1977 у в. Янава Талачынскага р-на ў гонар брыгады ўстаноўлена мемар. дошка, у 1980 каля вёскі пастаўлена стэла.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «ДЗЯ́ДЗЬКІ КО́ЛІ».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Барысаўскага, Бягомльскага, Лагойскага, Плешчаніцкага, Смалявіцкага р-наў.

Створана ў жн. 1942 на базе атрадаў «Дзядзькі Колі» (арганізаваны ў маі 1942, пазней імя Дзяржынскага), «Камунар» (арганізаваны ў маі 1942), імя Сталіна і імя Чапаева (створаны ў крас. 1942), «Бура» (арганізаваны ў чэрв. 1942), «За Бацькаўшчыну» (створаны ў ліп. 1942, у чэрв. 1943 расфарміраваны), групы Г. Р. Каўзановіча («Дзеда Гаўрылы»). Камандзір П. Р. *Лапацін;* камісары А. Ц. *Язубчык,* М. М. *Чуліцкі;* нач. штаба В. П. Бальшакоў, А. Л. Валошын.

Партызаны праводзілі дыверсіі на ўчастку чыг. Мінск — Барысаў, Мінск — Маладзечна і шашы Мінск — Барысаў. У «рэйкавай вайне» падарвалі больш за 1,9 тыс. рэек, 5 чыг. мастоў. У снеж. 1942 і жн. 1943 нападалі на варожы гарнізон у в. Зембін (гл. *Плешчаніцкая аперацыя 1943),* у маі — чэрв. 1943 вялі баі з фашыстамі, што праводзілі карную аперацыю «Котбус», у крас.— маі 1944— з ням. палком, які падтрымлівалі самалёты, танкі і артылерыя. Асабліва цяжкія баі вялі ў чэрв. 1944 у раёне воз. Палік. У час наступлення Чырв. Арміі забяспечылі пераправу 35-й гвардз. танк. брыгадзе цераз р. Цна.

28.6.1944 брыгада (1042 партызаны; атрады імя Дзяржынскага, «Камунар», імя Сталіна, імя Чапаева, «Бура», «За Савецкую Радзіму», імя Гастэлы) злучылася з Чырв. Арміяй. Камандзіру брыгады Лапаціну, разведчыцы Н. В. *Траян* прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1964 у пас. Ганцавічы Барысаўскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены абеліск.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ДО́БРУШСКАЯ ІМЯ́ І. В. СТА́ЛІНА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Добрушскага, Веткаўскага, Цэрахоўскага р-наў.

Створана ў ліп. 1943 на базе атрада імя Молатава (арганізаваны ў маі 1943). Камандзір І. П. Крывенчанка, камісар І. М. Гатальскі, нач. штаба П. Ф. Захараў.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунках Гомель — Бранск, Гомель — Жлобін, Гомель — Бахмач. У жн. і вер. 1943 удзельнічалі ў баях за ўтрыманне партыз. зоны і выхад з акружэння ў час карных аперацый. У вер. 1943 з часцямі Чырв. Арміі ўдзельнічалі ў вызваленні тэр. Добрушскага р-на. 27.9.1943 брыгада (771 партызан; атрады імя Молатава, імя Будзённага) злучылася з Чырв. Арміяй. Камандзіру дыверсійнай групы атрада імя Молатава Ф. Я. *Кухараву* прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1977 у в. Харашоўка, у 1980 у пас. Уборак Добрушскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены стэлы.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ДЫВЕРСІ́ЙНАЯ БЕЛАРУ́СКАЯ ІМЯ́ У. І. ЛЕ́НІНА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Суражскага, Талачынскага, Ушацкага, Докшыцкага, Дунілавіцкага, Пліскага, Глыбоцкага р-наў.

Створана ў ліп. 1942 у сав. тыле як брыгада Бел. дыверсійная асобага прызначэння з партызан, якія выйшлі за лінію фронту, і з асабовага складу, вылучанага партыз. брыгадамі 1-й Бел. і 2-й Бел. імя Панамарэнкі. У ліст. 1942 брыгадзе нададзена імя Леніна. Да снеж. 1942 асн. база брыгады знаходзілася ў сав. тыле, куды атрады перыядычна выходзілі на экіпіроўку. У вер. 1943 перадыслацыравана ў Вілейскую вобл. Камандзіры А. А. *Баскакаў* (загінуў), М. Т. *Гарбаценкаў*, Я. У. Фурсо (в. а.); камісары В. Д. *Лобараў*, Гарбаценкаў, Р. Ф. *Шастакоў*, М. З. Умінскі (в. а.), У. С. Свірыд (загінуў), М. Р. Пучкароў; нач. штаба М. П. Падгорны, С. Ф. Сафонаў.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунках Полацк — Віцебск, Полацк — Невель, Полацк — Маладзечна. У снеж. 1942, студз.— сак. 1943 удзельнічалі ў баях з карнікамі ў Суражскім, Полацкім і Расонскім р-нах. У ліп. 1943 брыгада правяла рэйды з Суражскага ў Талачынскі, у вер.— у Докшыцкі р-ны, у час якіх партызаны нападалі на гарнізоны, у т. л. ў в. Арэхаўна Ветрынскага р-на. У «рэйкавай вайне» на чыгунцы Полацк — Маладзечна падарвалі і папсавалі больш за 5 тыс. рэек. Са снеж. 1943 утрымлівалі лінію абароны па р. Бярэзіна. У крас.— маі 1944 у час карнай аперацыі праціўніка на Полацка-Лепельскую партыз. зону вялі баі на лініі абароны в. Адамова — Берасполле, в. Лісічына — Кублічы, каля воз. Медзазол утрымлівалі пераправу цераз Батурынскі мост, вялі баі за в. Лясіны, Храмёнкі, Зарубаўшчына Ушацкага р-на. У маі 1944 з інш. брыгадамі прарвалі блакаду каля в. Матырына Ушацкага р-на і выйшлі ў Вілейскую вобл. 1.7.1944 брыгада (315 партызан; атрады 1-ы, 2-і, 3-і) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «ЖАЛЯЗНЯ́К».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Бягомльскага і Лагойскага р-наў.

Створана ў вер. 1942 на базе атрада «Рамана» (Р. А. Дзякава, арганізаваны ў снеж. 1941). Камандзіры Дзякаў, І. П. *Ціткоў*, Л. П. *Бірукоў* (в. а.); камісары С. С. *Манковіч*, Ф. І. *Дзернушкоў*; нач. штаба Бірукоў.



Група падрыўнікоў дыверсійнай Беларускай брыгады імя У. І. Леніна.

Камандзір брыгады «Жалязняк» І. П. Ціткоў гутарыць з маладымі партызанамі. Снежань 1942.



Партызаны брыгады «Жалязняк» В. і П. Сушко вядуць агонь па самалётах нямецка-фашысцкіх захопнікаў з процітанкавага ружжа. 1943.



Партызаны брыгады «Жалязняк» вядуць бой з нямецка-фашысцкімі захопнікамі на чыгунцы. Мінская вобл.

Партызаны ў снеж. 1942 разграмілі варожы гарнізон у Бягомлі, Бягомльскі р-н стаў партыз. зонай. Нападалі на варожы гарнізон у Докшыцах (гл. *Докшыцкі бой 1943*), разграмілі чыг. ст. Параф'янава (гл. *Параф'янаўскі бой 1943*). У сак. 1943 напалі на гарнізоны ў в. Даўгінава Крывіцкага і в. Юхнаўка (гл. *Юхнаўскі бой 1943*) Бягомльскага р-наў. У маі — чэрв. 1943 вялі баі супраць карнікаў, якія праводзілі аперацыю «Котбус». 12.12. 1942 знішчылі 2 масты цераз Бярэзіну. У «рэйкавай вайне» падарвалі больш за 5,5 тыс. рэек, 5 чыг. мастоў. У жн. 1943 удзельнічалі ў *Докшыцка-Крулеўшчынскай аперацыі 1943*. У чэрв. 1944 утрымлівалі да падыходу Чырв. Арміі пераправу цераз Бярэзіну, пабудавалі там 2 масты.

28.6.1944 брыгада (2137 партызан; атрады 1-ы, 2-і, 3-і, 5-ы, 6-ы, 7-ы, вучэбна-рэзервовы) злучылася з Чырв. Арміяй. Камандзіру брыгады Ціткову і камісару Манковічу прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

1942, студз., сак. 1943 з інш. атрадамі вялі баі супраць карных экспедыцый каля в. Петрыцкае Брагінскага, Лазараўка, Пружынішчы, Прыстань Акцябрскага, Антонаўка, Кароткавічы, Майскае Жлобінскага р-наў. У кастр. 1943 абаранялі партыз. зону ў межах в. Задзярэеўка, Шолкавічы, Чарнейкі і Сведскае Васілевіцкага р-на. У ліст. 1943 пры падыходзе часцей Чырв. Арміі з брыгадай імя Панамарэнкі і атрадам 108-м імя Катоўскага перарэзалі дарогу Горваль — Шацілкі, напалі на апорны пункт у в. Горваль, захапілі больш за 100 аўтамашын (гл. *Горвальская аперацыя 1943*) 25.11.1943 брыгада (964 партызаны; атрады 116-ы, 117-ы, 119-ы) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «ЗА РАДЗІ́МУ».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Шаркоўшчынскага, Маладзечанскага, Відзскага, Браслаўскага р-наў.

Створана ў вер. 1943 на базе асобных атрадаў П. М. Шырокава (дзейнічаў з ліст. 1942), А. Ф. Ячмянёва (арганізаваны ў маі 1943), У. Ц. Антонава і І. Ф. Бандарэнкі (арганізаваныя ў вер. 1943). Камандзіры брыгады Шырокаў, М. У. *Кандрашчанка*; камісар Ф. К. *Акулаў*; нач. штаба А. А. Дзюжэнка, К. І. Капцюгоў.

Восенню 1943 партызаны разграмілі варожы гарнізон у в. Бірута Браслаўскага р-на, спалілі 38 мастоў. У студз. 1944 узарвалі электрастанцыю і млын у в. Чырвоны Двор Шаркоўшчынскага р-на, знішчылі аўтагараж з 17 аўтамашынамі і 16 матацыкламі, 2 склады ў Даўгаўпілсе. У чэрв. 1944 падарвалі 580 рэек. Вялі баі пры адступленні варожых войск у Браслаўскім р-не.

2.7.1944 брыгада [495 партызан; атрады імя Жданава (б. Шырокава), імя Варашылава (б. Ячмянёва), імя Кірава (б. Антонава), імя Молатава (б. Бандарэнкі), імя Куйбышава] злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «ЗА РАДЗІ́МУ» ІМЯ́ А. К. ФЛЕ́ГАНТАВА.** Да крас. 1943 наз. «За Радзіму». Дзейнічала на акупіраванай тэр. Чэрвеньскага, Пухавіцкага, Асіповіцкага, Бабруйскага, Маларыцкага, Дзівінскага р-наў БССР і Камень-Кашырскага р-на Валынскай вобл.

Створана ў кастр. 1942 у Чэрвеньскім р-не на базе атрадаў: А. К. *Флегантава* (пачаў арганізоўвацца ў снеж. 1941; пазней атрад «Баявы»), У. А. *Ціхамірава* (пазней імя Сталіна), І. З. *Кузняцова* (пазней «Чырвоны сцяг»), 752-га, «Полымя». Камандзіры брыгады Флегантаў (загінуў), Я. Ф. *Філіпскіх*, Ф. Ф. *Тараненка*, І. В. *Жохаў*, М. Ф. Ваганаў; камісары Г. Р. *Чарняўскі*, Жохаў, І. І. Раманаў; нач. штаба Тараненка, У. І. Бабкоў, Раманаў, Ваганаў, І. В. Мацюшаў. У снеж. 1942 у брыгаду ўвайшоў атрад імя Варашылава, атрад 752-і вылучаны з брыгады для стварэння *партызанскай брыгады 1-й Бабруйскай*. У сак. 1943 атрад імя Сталіна разгорнуты ў *партызанскую брыгаду 12-ю кавалерыйскую імя І. В. Сталіна*. У чэрв. 1943 на базе атрада «Полымя» і новасфарміраванага атрада імя Чапаева створана *партызанская брыгада «Полымя»*. У жн. 1943 на базе атрадаў «Чырвоны сцяг» і імя Варашылава створана *партызанская брыгада «Чырвоны сцяг»*. У брыгадзе «За Радзіму» дзейнічаў партыз. атрад імя П. Л. Валькова, створаны ў кастр. 1943; у студз. 1944 перадыслацыраваны да чыг. ўчастка Ковель — Брэст, дзейнічаў самастойна; 12.7.1944 (215 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

21.8 — 11.10.1942 атрад Флегантава зрабіў баявы рэйд у варожым тыле з Усвяцкага р-на Калінінскай вобл. ў Чэрвеньскі р-н. У час рэйду 12.9.1942 разам з партызанамі брыгады Дубава ў засадным баі на дарозе Камень — Лепель каля в. Бароўка знішчыў аўтатранспартную калону з канвоем. Разам з партыз. брыгадамі Сіроцінскай і 3-й Бел. і мясцовым насельніцтвам 31.8.1942 на ўчастку Лоўжа — Обаль разбурылі 10 км чыг. палатна. Толькі з 22.10 да 25.11.1942 падарвалі 14 эшалонаў, у т. л. 2 абстралялі і знішчылі. 19.9—14.12.1943 брыгада перадыслацыравалася з Чэрвеньскага ў Маларыцкі р-н. У час рэйду прайшла каля 860 км праз 162 населеныя пункты, правяла 3 сустрэчныя баі. Пасля злучэння з Чырв. Арміяй брыгада ўключана ў баявыя парадкі 38-й гвардз. стралк. дывізіі. Трымала абарону каля в. Картэлесы Ратнаўскага р-на Валынскай вобл., Воса Дзівінскага р-на і пераправы цераз Прыпяць каля в. Ветлы Камень-Кашырскага р-на.

25.3.1944 брыгада [895 партызан; атрады «Баявы» (да мая 1943 атрад Флегантава), 44-ы, імя Літвінава (нададзена імя камандзіра ўзвода атрада «Баявы» П. М. Літвінава, які загінуў у баі), 45-ы] злучылася з Чырв. Арміяй. Расфарміравана ў крас. — чэрв. 1944 на атрадна.



Артылерысты партызанскай брыгады «Жалязняк» на маршы. Мінская вобл.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «ЖАЛЯЗНЯ́К».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Жлобінскага р-на.

Створана ў вер. 1943 на базе атрада «Жалязняк» (арганізаваны ў маі 1943). Камандзір брыгады В. І. Шаруда, камісар Г. В. Злынаў, нач. штаба Р. П. Завадоўкін.

Партызаны наносілі ўдары на чыгунках Жлобін — Гомель, Жлобін — Калінкавічы, на шашэйных і грунтавых дарогах. Толькі ў жн. і вер. 1943 падарвалі больш за 1,5 тыс. рэек. У ліп. — жн. 1943 падарвалі або пашкодзілі 11 мастоў, 56 аўтамашын, разграмілі 5 варожых апорных пунктаў. У баях захапілі 22 кулямёты, 4 мінамёты, каля 150 вінтовак. З атрадам «Смерць фашызму» разграмілі гарнізоны ў в. Мормаль (снеж. 1942), Таўстыкі, Верхняя Алба (люты 1943), Радуша (сак. 1943), паліцэйскія ўчасткі ў в. Лукі і Сцяпы, на ст. Чырвоны Бераг, з атрадам 108-м імя Катоўскага — гарнізон у в. Замен-Рыння Жлобінскага р-на (жн. 1943). У снеж.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «ЗА САВЕ́ЦКУЮ БЕЛАРУ́СЬ».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Бешанковіцкага, Асвейскага, Гарадоцкага, Дрысенскага, Расонскага і Ушацкага р-наў.

Створана ў кастр. 1942 з асобных атрадаў «Сібірак» (створаны ў сак. 1942), імя Чапаева (створаны ў крас. 1942), імя Катоўскага (створаны ў ліп. 1942). Камандзір брыгады П. М. *Раманаў* (загінуў); камісары Дз. П. *Падалец*, М. Г. Жыжаў (загінуў); нач. штаба М. А. Дадзеркін, М. А. Звераў (загінуў), А. І. Ярашэнка.

Партызаны наносілі ўдары на чыгунках Віцебск — Даўгаўпілс, Полацк — Маладзечна, на шашэйных і грунтавых дарогах. Разграмілі ў сак. 1943 апорныя пункты ворага ў в. Гай Дрысенскага, у чэрв. і ліп. 1943 у в. Свяча і Сокарва Бешанковіцкага р-на, у кастр. 1943 і студз. 1944 гарнізоны ў в. Камень Лепельскага, у в. Дуброўка, Худакова, Ягадкі, Хлебаўшчына Ушацкага і Бешанковіцкага р-наў (гл. таксама ў арт. *Лепельская аперацыя 1943*). У жн. і вер. 1943 на чыг. участку Полацк — Празарокі падарвалі больш за 2 тыс. рэек. У час карнай экспедыцыі супраць партызан *Полацка-Лепельскай партызанскай зоны* ў крас.— маі 1944 вялі абарончыя баі на рубяжы в. Горы — Чарсцвяты — Загор'е, перакрылі ворагу шляхі на Ушачы, больш за 10 дзён вялі баі каля в. Слабада — Казьяны — Пілатоўшчына, за в. Сарочына і інш. Ушацкага р-на.

30.6.1944 брыгада (421 партызан; атрады «Сібірак», імя Чапаева, імя Катоўскага, імя Лазо, імя Шчорса, імя Аляксандра Неўскага, імя Кутузава, імя Суворава) злучылася з Чырв. Арміяй. Камандзіру брыгады чыг. участках Ліда — Маладзечна, Мінск — Маладзечна. Толькі ў лютым — сак. 1944 зрабілі больш за 20 дыверсій, падарвалі 16 эшалонаў і чыг. мост. Утрымлівалі паўн. граніцу Івянецка-Налібоцкай партыз. зоны. У ліп. 1943 атрад імя Кірава вёў абарончыя баі з карнікамі, у кастр. правёў сустрэчны бой з ворагам, які спрабаваў праравацца да пасадачнай авіяпляцоўкі. У сак. 1944 брыгада разграміла 7 варожых апорных пунктаў у Радашковіцкім і інш. раёнах. 1.7. 1944 перарэзала дарогі Ракаў — Валожын, Гарадок — Валожын, па якіх адступаў праціўнік. 6.7.1944 брыгада (962 партызаны; атрады імя Кірава, «За Савецкую Беларусь», імя Андрэева, «Штурм», рэзервовы) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «ЗА САВЕ́ЦКУЮ БЕЛАРУ́СЬ»** (партызанскі атрад «За Савецкую Беларусь»). Дзейнічала на акупіраванай тэр. Куранецкага р-на.

У кастр. 1943 у Куранецкім р-не на базе групы А. І. Валынца, якая дзейнічала з вясны 1942, створаны партыз. атрад «За Савецкую Беларусь». Камандзір А. І. *Валынец;* камісар В. Ф. *Цалуйка;* нач. штаба П. С. Вашчанка, Г. І. Ляцюшкін.

Партызаны наносілі ўдары па камунікацыях ворага, удзельнічалі ў «рэйкавай вайне». Рабілі напады на варожыя гарнізоны ў в. Кабыльнік (люты 1944), Любань (чэрв. 1944). З 28.6.1944 вялі баі з часцямі ворага, якія адступаў, вызвалілі і ўтрымлівалі да падыходу Чырв. Арміі в Каловічы, Бараўцы. Разам з Чырв. Арміяй удзельнічалі ў разгроме ням.-фаш. гарнізона ў Вілейцы.

2.7.1944 атрад (421 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй. Пасля злучэння БШПР вызначыў атрад як брыгаду ў складзе 1-га, 2-га, 3-га, 4-га, 5-га атрадаў. Камандзіру брыгады Валынцу прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1970 каля в. Ляскі Вілейскага р-на ў гонар брыгады створаны мемар. комплекс.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «ЗА САВЕ́ЦКУЮ БЕЛАРУ́СЬ».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Мінскага, Смалявіцкага, Чэрвеньскага р-наў.

Створана ў кастр. 1942 на базе атрадаў І. І. Уласава (Бліна, пазней «За Савецкую Беларусь»), 2-га, 3-га, 4-га. Камандзіры Уласаў (Блін), С. Ц. Конанаў, А. М. *Базылевіч;* камісары А. Е. Лук'яненка, М. Ф. Варанцоў, В. П. *Каралёў*, Базылевіч, Р. А. *Моўчан;* нач. штаба Е. А. *Іваноў*, А. С. Грыгор'еў, А. М. Пракоф'еў.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунках Мінск — Барысаў, Мінск — Асіповічы і шашэйных дарогах. У кастр. 1942 каля в. Навазер'е Чэрвеньскага р-на вялі 8-гадзінны бой з ворагам. У ліст. 1942 разграмілі варожы гарнізон у в. Вызваленне Чэрвеньскага р-на, у чэрв. 1944 — у в. Загор'е Смалявіцкага р-на. У жн. 1943 і чэрв. 1944 падарвалі 1,2 тыс. рэек. У крас. 1944 падарвалі 22 варожыя эшалоны, разбілі 9, пашкодзілі 14 паравозаў, спалілі 2 масты, знішчылі 32 аўтамашыны. У сак., ліст. 1943, чэрв. 1944 вялі баі з карнікамі. 3—9.7.1944 разам з воінамі Чырв. Арміі вялі баі па знішчэнню варожай групоўкі ў раёне Смалявіч.

2.7.1944 брыгада (1752 партызаны; атрады імя Лазо, «Ураган», «Камсамол», імя Кутузава, «Пераможац») злучылася з Чырв. Арміяй.



Камандзір партызанскай брыгады «За Савецкую Беларусь» Герой Савецкага Саюза А. І. Валынец са сваім 13-гадовым сынам-разведчыкам Колем.

Група партызан кавалерыйскага атрада А. К. Флегантава. 1942.

Раманаву прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Брыгада ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе *«Прарыў»* у ліку 16 партыз. брыгад. У 1970 у в. Чанавічы Бешанковіцкага р-на ў гонар атрадаў «Сібірак» і імя Чапаева брыгады пастаўлена стэла, у 1976 у в. Турасполле Ушацкага р-на ўстаноўлена мемар. дошка.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «ЗА САВЕ́ЦКУЮ БЕЛАРУ́СЬ».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Валожынскага, Радашковіцкага р-наў.

Створана ў студз. 1944 на базе атрадаў імя Кірава (арганізаваны ў снеж. 1942 у Івянецкім р-не з групы ваеннаслужачых на чале з Я. Дз. Васюціным), «За Савецкую Беларусь» (арганізаваны ў маі 1943), імя Андрэева (арганізаваны ў кастр. 1943), вылучаных *партызанскай брыгадай імя В. П. Чкалава.* Камандзір Я. Дз. *Васюцін*, камісар С. М. Плахін, нач. штаба А. С. Раманаў.

Партызаны вялі баявыя дзеянні на

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «ЗВЯЗДА́».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Горацкага, Дрыбінскага, Шклоўскага, Аршанскага і Дубровенскага р-наў.

Створана ў жн. 1942 на базе Горацкага атрада, афармленага ў маі 1942. Камандзіры М. І. Гулеў, Дз. Ф. *Вайстроў* (в. а.); камісар П. Н. Савінаў; нач. штаба Д. І. Тамашэўскі. На жн. 1942 у брыгадзе было 320 партызан. У канцы вер. ў сувязі з абмежаванымі магчымасцямі манёўраў ва ўмовах карных аперацый ням. фаш. захопнікаў брыгада была разгрупавана на невял. групы і атрад, агульнае кіраўніцтва якім ажыццяўлялі камандзіры групы атрадаў Дз. Ф. Вайстроў, М. І. Кітаеў.

Партызаны праводзілі баявыя дзеянні на чыг. участку Орша — Крычаў. У жн.— вер. 1942 падарвалі 9 і абсяралялі 3 эшалоны, разбурылі тэлефонна-тэлеграфную лінію Шклоў — Горкі — Дрыбін, знішчылі 17 аўтамашын. У кастр. 1942— лют. 1943 правялі 16 баёў з карнікамі. Вясной 1943 некалькі груп улілося ў атрад, які ў крас. 1943 перабазіраваўся ў Чавускі р-н і ў чэрв. увайшоў у партыз. полк «Трынаццаць» як 4-ы батальён, які ў жн. 1943 разгорнуты ў *партызанскую брыгаду 17-ю.*

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ АЛЯКСА́НДРА НЕ́ЎСКАГА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Гродзенскага, Скідальскага р-наў.

Створана ў ліст. 1943 на базе атрадаў імя Аляксандра Неўскага (арганізаваны ў крас. 1943 на базе групы І. Дз. Ананчанкі і П. П. *Дайнекі*, вылучанай у студз. 1943 *партызанскай брыгадай 300-й імя К. Я. Варашылава*), «За Радзіму» (арганізаваны ў ліст. 1943), імя Катоўскага (арганізаваны ў чэрв. 1943 на базе спецгрупы А. Е. Сарнычава і партыз. груп, якія дзейнічалі ў 1942 і 1943 у Ваўкавыскім, Гродзенскім і Скідальскім р-нах), імя Суворава (арганізаваны ў чэрв. 1943 на базе арганізатарскай групы І. Я. Сямашкі і партыз. груп, якія дзейнічалі ў Гайнаўскім і Гродзенскім р-нах). Камандзір К. М. Ешчанка, камісар Дайнека, нач. штаба В. Г. Жалязноў.

Партызаны на чыгунках і шашэйных дарогах Гродна — Ліда, Гродна — Вільнюс, Слонім — Ваўкавыск зрывалі перавозкі, знішчалі жывую сілу і тэхніку ворага. Летам 1944 пашкодзілі некалькі ўчасткаў шашы Гродна — Вільнюс. Вялі шматлікія баі па ліквідацыі ўчасткаў і апорных пунктаў праціўніка.

13.7.1944 брыгада (562 партызаны; атрады імя Аляксандра Неўскага, імя Катоўскага, імя Суворава, «За Радзіму», імя Варашылава, імя Чапаева) злучылася з Чырв. Арміяй.



Партызаны брыгады імя С. М. Будзённага ў засадзе. Вясна 1944.



Партызаны брыгады імя С. М. Будзённага вядуць бой з гітлераўцамі. 1944.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ АЛЯКСА́НДРА НЕ́ЎСКАГА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Юрацішкаўскага, Іўеўскага р-наў.

Створана ў крас. 1944 на базе атрада імя Аляксандра Неўскага, вылучанага партыз. брыгадай «Уперад». Камандзір А. Г. Байкоў, камісар М. М. Гаўрылаў, нач. штаба Ф. У. Шачанкоў.

Партызаны вялі адкрытыя і засадныя баі з ворагам, зрывалі перавозкі па чыгунках і шашэйных дарогах. Толькі ў крас. 1944 правялі 16 баёў, у маі на чыг. участку Маладзечна — Ліда падарвалі 4 эшалоны, у «рэйкавую вайну» — больш за 1,3 тыс. рэек. Абаранялі паўн. мяжу Івянецка-Налібоцкай партыз. зоны, вялі баі з карнікамі. 5.7.1944 разграмілі апорны пункт ворага ў в. Бяжэмцы Юрацішкаўскага р-на.

7.7.1944 брыгада (391 партызан; атрады ім Аляксандра Неўскага, імя Кастуся Каліноўскага, «Мсцівец») злучылася з Чырв. Арміяй. У 1965 у Лідзе ў гонар брыгады пастаўлена стэла, у 1969 у в. Бакшты Іўеўскага р-на — абеліск.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ С. М. БУДЗЕННАГА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Куранецкага, Смаргонскага, Маладзечанскага, Мядзельскага р-наў.

Створана 8.12.1943 на базе атрада імя Будзённага (арганізаваны ў чэрв. 1942 на базе груп В. А. *Чаркасава*, А. С. *Азончыка*, якія дзейнічалі з лета 1941, М. Дз. Немава і А. Запявалава). Камандзір брыгады Чаркасаў, камісар Ц. Дз. *Харын*, нач. штаба Немаў.

Партызаны ў 1942 на чыг. участку Куранец — Усціновічы разбурылі чыг. палатно. У жн. 1943 падарвалі вадакачкі на ст. Ашмяны і Залессе. Група Азончыка падарвала 47 эшалонаў з жывой сілай і тэхнікай ворага. Аперацыю «рэйкавая вайна» партызаны праводзілі на чыг. участках Солы — Смаргонь (жн. 1943), Будслаў — Параф'янава (чэрв. 1944). Да падыходу Чырв. Арміі занялі і ўтрымлівалі ст. Будслаў, Княгініна. Разам з Чырв. Арміяй удзельнічалі ў вызваленні райцэнтра Крывічы.

2.7.1944 брыгада (489 партызан; атрады імя Будзённага, «Патрыёт», імя Пугачова, імя Фрунзе, імя Молатава) злучылася з Чырв. Арміяй. Камандзіру атрада «Патрыёт» Азончыку прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ С. М. БУДЗЕННАГА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Ленінскага р-на.

Створана ў сак. 1943 на базе атрада «Камарова» (В. З. Каржа), арганізаванага 26.6.1941 з парт.-сав. работнікаў і камсамольцаў Пінска. Камандзіры брыгады У. М. *Антановіч*, Ф. І. *Шырын*; камісары Р. М. *Ігнаценка*, Р. С. Карасёў; нач. штаба В. А. Стаюхін.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунках Жыткавічы—Пінск, Баранавічы—Лунінец, на дарозе Старобін — Мікашэвічы — Давыд-Гарадок. 28.6.1941 атрад «Камарова» правёў першы бой з варожай разведкай на р. Ясельда, 4 ліп.— бой каля Пінска. Удзельнічалі ў «рэйкавай вайне». У вер.— кастр. 1943 падарвалі больш за 2,5 тыс. рэек, у ноч на 20.6.1944 — 796 рэек. У лютым — сак. 1942 атрад «Камарова» разам з атрадамі А. І. Далідовіча, А. І. Патрына, М. М. Розава разграміў валасныя ўправы і паліцэйскія ўчасткі ў в. Кузьмічы, Доўгае, Капацэвічы, Скаўшын, Пасталы, Пагост. У вер. 1942 атрад «Камарова» з атрадамі імя М. Ц. Шыша і «Пятровіча» (А. П. Савіцкага) разграміў варожы гарнізон у в. Леніна, спаліў склад боепрыпасаў і інш. (гл. *Ленінскі бой 1942*). У лютым — маі 1944 партызаны вялі баі з карнікамі каля в. Ельна, Малыя Сцяблевічы, Грычынавічы, Ленін, Морач. У чэрв.— ліп. 1944 правялі 19 баёў з праціўнікам, у якіх забілі і паранілі 437, узялі ў палон 40 салдат і афіцэраў, падарвалі 4 танкі, 27 аўтамашын. У ліп. 1944 трымалі абарону і вялі баі ў Ленінскім і Старобінскім р-нах. 14.7.1944 брыгада (1078 партызан; атрады імя Варашылава, імя Катоўскага, імя Панамарэнкі) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1946 у г. Пінску ў гонар атрада «Камарова» (В. З. Каржа) устаноўлена мемар. дошка.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ К. Я. ВАРАШЫ́ЛАВА.** Да студз. 1944 наз. «Мсцівец». Дзейнічала на акупіраванай тэр. Ветрынскага, Ушацкага і Пліскага р-наў.

Створана ў снеж. 1942 на базе асобных атрадаў «Мсцівец» (прыбыў з савецкага тылу ў ліп. 1942) і «Смерць фашызму» (арганізаваны ў вер. 1942). Камандзір Дз. В. *Цябут;* камісар У. А. *Лемза;* нач. штаба Я. С. Шапавал, А. А. Кухта.

Партызаны наносілі ўдары на чыгунцы Полацк — Маладзечна, на шашэйных і грунтавых дарогах. Вялі баі за ўтрыманне раёна дыслакацыі, у т. л. за в. Гуры (жн. 1943), Мураўі (люты 1944) і Гомель (крас. 1944) Ветрынскага р-на. У студз. 1943 падарвалі чыг. мост каля в. Антонавічы паміж ст. Арэхаўна — Ветрына. Разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Крынкі Полацкага р-на (вер. 1943), Вераб'і (крас. 1944), напалі на гарнізоны ў в. Багушэва і Антонавічы

Ветрынскага р-на. У пач. жн. 1943 на чыг. участку Ветрына — Празарокі падарвалі больш за 800 рэек. У час *Лепельскай аперацыі 1943* прыкрывалі ўдарную групоўку партыз. брыгад з боку Полацка — Ветрына. У крас.— маі 1944 удзельнічалі ў баях супраць карнай экспедыцыі, у т. л. за в. Вял. Угрынкі, Забораўна Ушацкага р-на. У ноч на 5.5.1944 прарвалі блакаду на рубяжы в. Вял. Матырына — Беразінец Ушацкага р-на. У чэрв. 1944 у баі ў в. Шоша Пліскага р-на знішчылі 6 варожых аўтамашын. Разам з воінамі Чырв. Арміі ўдзельнічалі ў вызваленні в. Лужкі Пліскага р-на.

1.7.1944 брыгада (746 партызан; атрады «Мсцівец», «За Радзіму», «Смерць фашызму», «КІМ», «Бальшавік», імя Гастэлы) злучылася з Чырв. Арміяй. Брыгада ўвекавечана ў мемар. комплексе «Прарыў» у ліку 16 партыз. брыгад. У 1963 каля в. Пуканаўка Полацкага р-на ў гонар брыгады ўстаноўлены памятны знак, у 1976 у в. Угрынкі Ушацкага р-на — мемар. дошка, у 1965 у в. Гомель Полацкага р-на — мемар. дошка, у 1977 каля вёскі ўзведзены мемар. комплекс.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ К. Я. ВАРАШЫ́ЛАВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Дзятлаўскага, Казлоўшчынскага, Жалудоцкага, Лідскага, Шчучынскага р-наў.

Створана ў ліст. 1943 на базе атрадаў імя Варашылава (арганізаваны ў Лідскім р-не ў сак. 1942, у снеж. 1942 аб'яднаны з 21-м атрадам і ўключаны ў *партызанскую брыгаду Ленінскую*, з чэрв. 1943 у *партызанскай брыгадзе імя С. М. Кірава*), імя Калініна (арганізаваны ў жн. 1943) і імя Дзяржынскага (арганізаваны ў крас. 1942 у Слонімскім р-не як атрад 54-ы). Камандзір П. К. *Макараў;* камісары В. Я. *Сашнёў* (загінуў), М. М. Белякоў; нач. штаба С. П. Дабравольскі.

У снеж. 1943— лют. 1944 партызаны падарвалі 31 эшалон, 8 мастоў, знішчылі 16 аўтамашын, маёнтак, зрабілі налёты на ваен. аб'екты і гарнізоны ў райцэнтры Дзятлава і в. Зачэпічы. У час карнай аперацыі ворага супраць партызан Шчучынскай зоны (7—15.6.1944) вялі абарончыя баі, у ноч на 11 чэрв. прарвалі блакаду і выйшлі ў Гарадзішчанскі р-н. Атрад імя Варашылава ўдзельнічаў у прарыве блакады ў складзе партыз. брыгады Ленінскай ў снеж. 1942. Толькі ў жн. 1943 на чыг. участках Ліда — Баранавічы, Ліда — Масты падарваў больш за 600 рэек. У ліп. 1944 брыгада сумесна з артдывізіёнам Чырв. Арміі каля райцэнтра Казлоўшчына перарэзала ворагу шлях да адступлення, захапіла пераправу на р. Шчара. 15.7.1944 брыгада (522 партызаны; атрады імя Варашылава, імя Калініна, імя Дзяржынскага, імя Панамарэнкі) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ К. Я. ВАРАШЫ́ЛАВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Мядзельскага, Пастаўскага, Дунілавіцкага, Астравецкага, Свірскага, Смаргонскага, Куранецкага, Глыбоцкага, Крывіцкага р-наў БССР і Швенчонскага р-на Літоўскай ССР.

Створана ў ліст. 1942 на базе атрадаў імя Суворава (арганізаваны ў маі 1942 на базе групы Ф. Р. *Маркава,* якая прыбыла ў варожы тыл у вер. 1941,



Партызаны брыгады імя С. М. Будзённага вяртаюць сялянам нарабаванае гітлераўцамі (в. Хорастава Ленінскага р-на).



Партызаны брыгады імя С. М. Будзённага мініруюць мост.



Партызаны атрада імя П. К. Панамарэнкі брыгады імя С. М. Будзённага накіроўваюцца на баявую аперацыю. Вясна 1944.



Група партызан атрада імя Аляксандра Неўскага брыгады імя К. Я. Варашылава.

і мясцовых груп С. А. Пронькі, Р. З. Крукава — А. А. Сударыкава) і «Знішчальнік» [арганізаваны ў кастр. 1942 на базе групы У. Ц. Цабы, якая прыбыла ў тыл ворага па заданню ЦК КП(б)Б]. Камандзіры брыгады Маркаў, Ф. С. *Шляхтуноў,* І. Н. *Крысаў;* камісары Маркаў І. М. *Яўмененка,* А. І. *Шаўчэнка;* нач. штаба У. У. Саўлевіч, Крысаў, Л. І. Карабанаў.

Партызаны ў маі 1942 на шашы каля Лынтупаў знішчылі камісію па вывазу моладзі трох раёнаў на катаржныя работы ў Германію. Увосень 1942 удзельнічалі ў знішчэнні 98 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі на тэр. 13 раёнаў Вілейскай вобл. У маі 1943 вялі баі супраць карных атрадаў, вясной 1943 — баі ў Гадуцішскім і Нарачанскім лясах, у сак. 1944 — каля в. Пасынкі. Увосень 1943 напалі на варожы гарнізон у Лынтупах, знішчылі чыг. станцыю, склад, падарвалі вадакачку. Разграмілі гарнізоны ў в. Дунілавічы, Мядзел, Груздава (вер. 1942), Кабыльнік (вер. 1942, гл. *Кабыльніцкі бой 1942,* жн. 1943), Шэметава (снеж. 1943) і інш. У маі 1944 памаглі партызанам і мясцоваму насельніцтву Ушацкай зоны выйсці з акружэння ў Вілейскую вобл., разграмілі ст. Гелядня. Толькі ў ноч на 1.6.1944 на чыг. участку Будслаў — Княгініна падарвалі больш за 950 рэек, знішчылі 4 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі. 19—20 чэрв. вывелі са строю чыг. ўчастак Варапаева — Паставы, знішчылі 2 масты. У ліп. разам з часцямі Чырв. Арміі разграмілі буйны гарнізон у Мядзелі, які брыгада блакіравала ў снеж. 1943.

4.7.1944 брыгада (1865 партызан; атрады імя Суворава, «Знішчальнік», імя Чапаева, імя Аляксандра Неўскага, імя Пархоменкі, імя Кутузава, імя Калініна, «Грозны», «Перамога», «Слава», разведвальны імя Лазо, імя Баграціёна) злучылася з Чырв. Арміяй. Камандзіру брыгады Маркаву і пам. камісара атрада па камсамолу Г. І. *Маслоўскай* прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1980 у в. Чарэмшыцы Мядзельскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены мемар. знакі.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ К. Я. ВАРАШЫ́ЛАВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Уздзенскага, Капыльскага, Дзяржынскага, Чырвонаслабодскага, Грэскага, Слуцкага р-наў.

Створана ў маі 1942 на базе атрадаў імя Катоўскага, імя Шчорса, імя Будзённага і імя Чапаева. Пазней у брыгаду ўключаны атрад імя Суворава. Камандзір П. П. *Капуста,* камісар І. К. *Жыжык,* нач. штаба П. З. Ігнашчанка. У снеж. 1942 брыгада (каля 3000 партызан) пераўтворана ў партыз. злучэнне Слуцкай зоны (гл. ў арт. *Мінскае партызанскае злучэнне*). На базе атрадаў імя Катоўскага, «Баявы», імя Пархоменкі створана *партызанская брыгада 300-я імя К. Я. Варашылава,* на базе атрадаў імя Шчорса, імя Чапаева, імя Жукава — *партызанская брыгада 27-я імя В. І. Чапаева,* на базе атрадаў імя Будзённага, імя Суворава, імя Фрунзе — *партызанская брыгада 225-я імя А. В. Суворава.*

Партызаны праводзілі аперацыі на чыг. участку Мінск — Стоўбцы і шашэйных дарогах. Разграмілі чыг. ст. Цімкавічы (гл. *Цімкавіцкая аперацыя 1942*), зрабілі налёт на Капыль (гл. *Капыльскія баі 1942, 1944*). У ліп. і кастр. 1942 вялі баі з ворагам каля в. Вял. Раёўка і Браткава Капыльскага р-на. 7.11.1942 правялі *Старыц-*



Абмеркаванне плана баявой аперацыі. Злева направа: камісар брыгады імя С. М. Будзённага Ц. Дз. Харын, камандзір атрада імя С. М. Будзённага І. С. Рабко, начальнік штаба брыгады М. Дз. Немаў, начальнік штаба атрада імя С. М. Будзённага І. І. Рыжоў, камандзір брыгады В. А. Чаркасаў.



Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. І. Калінін уручае ордэн Леніна і медаль «Залатая Зорка» Герою Савецкага Саюза памочніку камісара па камсамоле атрада імя А. Я. Пархоменкі брыгады імя К. Я. Варашылава Г. І. Маслоўскай.



Абмеркаванне плана баявой аперацыі ў партызанскай брыгадзе імя К. Я. Варашылава.



Партызаны брыгады імя газеты «Правда» знаёмяцца з падзеямі на фронце.

*кі бой 1942,* 3 снеж.— *Лаўскі бой 1942.* Партызану брыгады В. І. Драздовічу прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

У 1975 у в. Цімкавічы Капыльскага р-на ў гонар брыгады ўстаноўлена мемар. дошка.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ ВЛКСМ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Ушацкага і Чашніцкага р-наў.

Створана ў ліст. 1943 на базе асобных атрадаў імя Лазо, «Сібірак», «КІМ», арганізаваных на Асобым бел. зборы, 2-га і 4-га. У ліст. 1943 атрад 2-і расфарміраваны. Камандзір брыгады І. А. *Куксёнак,* камісар Ф. І. *Зайцаў,* нач. штаба М. П. Шчурын.

Партызаны рабілі дыверсіі на чыгунцы Полацк — Маладзечна, знішчылі ці пашкодзілі 14 эшалонаў, падарвалі больш за 1 тыс. рэек. У крас.— маі 1944 удзельнічалі ў абароне *Полацка-Лепельскай партызанскай зоны* на рубяжы в. Асінаўка — Рабчонкі Ушацкага р-на. Вялі баі супраць карнай аперацыі *«Веснавое свята».*

2.7.1944 брыгада (282 партызаны; атрады імя Лазо, «Сібірак», «КІМ», імя Сільніцкага) злучылася з Чырв. Арміяй. Брыгада ўвекавечана ў мемар. комплексе *«Прарыў»* у ліку 16 партыз. брыгад. У 1976 у в. Лозы Ушацкага р-на ў гонар брыгады ўстаноўлена мемар. дошка.



На кухні партызанскага атрада імя газеты «Правда» брыгады імя газеты «Правда».

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ ГАЗЕ́ТЫ «ПРА́ВДА».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Чэрвеньскага р-на.

Створана ў кастр. 1943 на базе атрадаў імя газ. «Правда» (арганізаваны ў крас. 1942), «Перамога» (арганізаваны ў сак. 1943 на базе групы, якая дзейнічала з студз. 1942) і імя Калініна. Камандзір С. Т. *Кузняцоў;* камісары С. Е. Данільчык, П. І. Багамолаў; нач. штаба Багамолаў, Р. Я. Герцовіч.

Партызаны грамілі варожыя гарнізоны ў Смілавічах, в. Дукарка, Блонь і інш., удзельнічалі ў «рэйкавай вайне». 23.6—3.7.1944 вялі баі з ворагам, які адступаў. З часцямі Чырв. Арміі 3.7.1944 вызвалілі в. Дукарка.

3.7.1944 брыгада (983 партызаны; атрады імя газеты «Правда», «Перамога», імя Калініна, імя Панамарэнкі) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1975 у в. Клінок Чэрвеньскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнік.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ М. Ф. ГАСТЭ́ЛЫ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Шаркоўшчынскага, Пастаўскага, Ашмянскага, Смаргонскага, Астравецкага р-наў.

Створана ў вер. 1943 на базе атрадаў С. А. Кальцова (пазней імя Заслонава, арганізаваны ў лют. 1943), А. С. Арлоўскага (пазней імя А. В. Бачкова, арганізаваны ў жн. 1943) і імя Шчорса (арганізаваны ў жн. 1943 у партыз. брыгадзе «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага). Камандзір В. А. *Манохін;* камісары В. Ф. Папок, У. І. *Тубеліс;* нач. штаба С. П. Краеў, Дз. А. Ануфрыеў.

Партызаны праводзілі аперацыі на чыг. участках Даўгаўпілс — Вільнюс, Полацк — Маладзечна, Маладзечна — Вільнюс, Шаркоўшчына—Швянчоніс — Вільнюс. У маі 1943 вялі баі з карнікамі каля в. Ласіца Дунілавіцкага р-на, у вер. правялі засадныя баі, захапілі вял. трафеі, каля в. Варапаева знішчылі «мабілізацыйную» камісію, якая адпраўляла моладзь на катаргу ў Германію. У ноч на 5.8.1943 на чыг. участку Гудагай — Смаргонь падарвалі больш за 670 рэек.

8.7.1944 брыгада [364 партызаны; атрады імя Заслонава, імя Бачкова (кулямётчык А. В. Бачкоў загінуў у баі ў жн. 1943), імя Шчорса, «За Савецкую Радзіму»] злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ Л. М. ДАВА́ТАРА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Докшыцкага, Кураненкага, Мядзельскага р-наў.

Створана ў снеж. 1942 на базе атрада Ф. С. *Шляхтунова* (пазней імя Свярдлова, арганізаваны ў кастр. 1942 у сав. тыле). Камандзіры Ф. С. Шляхтуноў, І. А. *Іваноў;* камісары Д. Я. Кадоўба, П. А. Паўленка, В. Ф. Папок; нач. штаба С. А. Вашчыла, Б. В. Дудкоўскі.

Брыгада разам з інш. партыз. брыгадамі ў 1943 вяла баі з карнікамі ў Докшыцкім, Ушацкім, Мядзельскім р-нах. Разграміла варожыя гарнізоны ў в. Іжа (студз. і ліст. 1943), Любань (студз. 1943), Кабыльнік (люты 1944). У жн. 1943 і чэрв. 1944 удзельнічала ў аперацыі «рэйкавая вайна» на чыг. участках Крулеўшчына — Параф'янава, Крывічы — Кура-



Група партызан брыгады імя Л. М. Даватара.



Партызаны атрада імя А. В. Суворава брыгады імя К. Я. Варашылава прымаюць прысягу. Капыльскі р-н. 1942.

нец, знішчыла каля 3 тыс. рэек. Дыверсійная група А. У. Букаева ў ліп. 1943 пусціла пад адхон 4 эшалоны ворага. У ноч на 3.6.1944 на дарозе Куранец — Балашы партызаны правялі засадны бой. За 5 дзён да прыходу Чырв. Арміі выбілі ворага з в. Любань, райцэнтра Куранец і чыг. ст. Княгініна і ўтрымлівалі іх да падыходу Чырв. Арміі.

2.7.1944 брыгада (568 партызан; атрады імя Свярдлова, імя Джыоева (камандзір атрада Л. З. Джыоеў загінуў у баі 3.6.1944), імя Фурманава, імя Дзяржынскага, імя Жукава, «Старынкі», «Іжа») злучылася з Чырв. Арміяй. У 1970 каля в. Ляскі Вілейскага р-на ў гонар брыгады створаны мемар. комплекс.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ А. Ф. ДАНУКА́ЛАВА.** Да мая 1944 наз. брыгада «Аляксея». Дзейнічала на акупіраванай тэр. Касплянскага р-на Смаленскай вобл., Лёзненскага, Суражскага, Віцебскага, Аршанскага, Багушэўскага, Бешанковіцкага, Чашніцкага, Ушацкага, Пліскага р-наў БССР.

Створана ў крас. 1942 на базе атрадаў «Радзіма» (арганізаваны ў жн. 1941), «Крэпасць» (арганізаваны ў крас. 1942), «Граза ворагам» (арганізаваны ў кастр. 1941). У ліп. 1942 атрад К. В. Зюкава вылучаны для арганізацыі новай брыгады, якая ў баях з праціўнікам рассеяна. У жн. 1942 з брыгады вылучаны атрад І. І. Уласава (Бліна, гл. *Партызанская брыгада «За Савецкую Беларусь»* Мінскай вобл.). У лютым 1943 атрады «Радзіма» і «Крэпасць» выйшлі ў сав. тыл і расфарміраваны. Атрад «Перамога» вернуты ў Смаленскую вобл. (гл. *Партызанскі полк «Трынаццаць»*). У маі 1943 з брыгады вылучаны атрады імя Чапаева, «Граза», «Буравеснік» для арганізацыі *партызанскай брыгады Лёзненскай.* У розны час расфарміраваны атрады І. І. Гур'ева, А. С. Гайдукова, імя Сталіна, «Савецкая Беларусь», «Звязда», «Казбек», іх асабовы склад увайшоў у інш. атрады брыгады. Усе атрады ў лют. 1943 аб'яднаны ў 3 батальёны. Камандзіры брыгады А. Ф. *Данукалаў* (загінуў), В. А. Блахін; камісары Т. В. Паўлоўскі (загінуў), А. Ц. *Шчарбакоў,* І. І. *Старавойтаў;* нач. штаба А. С. Гайдукоў, Я. М. Антоненка, Ф. І. Пласкуноў, І. П. Піменаў.

Партызаны праводзілі дыверсіі на варожых камунікацыях, у т. л. на чыгунках Віцебск — Орша, Віцебск — Смаленск, Полацк — Маладзечна. У ліп.— ліст. 1942 разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Шапурова, Будзянка, Ляшчова Суражскага, Стасева Лёзненскага р-наў. У снеж. 1942— лют. 1943 удзельнічалі ў баях з карнікамі, разграмілі гарнізоны ў в. Жабенцяі, Мельны, Баліна, Мішуткі Суражскага р-на. У кастр. 1943 удзельнічалі ў баях супраць карнай аперацыі каля в. Рубеж, Вадапоева, Вуглы Бешанковіцкага р-на, тройчы нападалі на варожы гарнізон у в. Бачэйкава (гл. *Бачэйкаўскія баі 1943*), удзельнічалі ў *Лепельскай аперацыі 1943.* У крас.— маі 1944 у Полацка-Лепельскай партыз. зоне брыгада вяла баі з карнікамі на рубяжы в. Замошша, Царковішча, Тартак, Казімірова, Ветча, Лагі, Бушанка Ушацкага р-на. У ноч на 3 мая разам з інш. брыгадамі прарвала блакаду, разграміла гарнізоны ў в. Баяры, Бондары, Ляпейкі, Піскунова, Каменка, Слабада Пліскага р-на. У «рэйкавай вайне» на чыг. участках Падсвілле — Крулеўшчына, Замасточча — Лычкоўскага, Сасноўка — Замасточча падарвала больш за 2,9 тыс. рэек. Перад наступленнем Чырв. Арміі актывізавала баявую дзейнасць на дарогах Кублічы — Беразіно, Кублічы — Востраў, Кублічы — Крулеўшчына.

1.7.1944 брыгада (1817 партызан; 3 батальёны, атрады «Прагрэс» (1-ы), «Смерць ворагам» (4-ы), «Марак» (6-ы), імя Селіваненкі (8-ы, створаны ў жн. 1941, да ліп. 1942 атрад дзейнічаў самастойна, у кастр. нададзена імя М. Н. Селіваненкі, які загінуў), імя Варашылава (10-ы), «Інтэрнацыянал» (12-ы), «Гвардзеец» (13-ы), «Знішчальнік» (14-ы), «Сокал» (15-ы), «Камсамолец» (16-ы), «Мсцівец» (17-ы), «Бальшавік» (20-ы)] злучылася з Чырв. Арміяй. Камандзіру брыгады Данукалаву прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Брыгада ўвекавечана ў мемар. комплексе «Прарыў» у ліку 16 партыз. брыгад. У 1976 у гонар брыгады ўстаноўлены мемар. дошкі на чыг. ст. Выдрэя Лёзненскага р-на, у 1976 у в. Рабава Віцебскага р-на, у 1976 у в. Вял. Дольцы Ушацкага р-на. У 1979 на будынку мемар. музея А. Ф. Данукалава ў в. Кавалі Лёзненскага р-на ўстаноўлена мемар. дошка, у 1977 у в. Пагосцішча Лёзненскага р-на пастаўлена стэла.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ Ф. Э. ДЗЯРЖЫ́НСКАГА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Бярозаўскага, Косаўскага, Целяханскага р-наў.

Створана ў снеж. 1943 на базе атрадаў імя Молатава (арганізаваны ў крас. 1942 як атрад 112-ы, у ліп. 1942 аб'яднаны з атрадам В. М. *Манахава,* які дзейнічаў з жн. 1941; з кастр. 1942 наз. імя Молатава), імя М. Ф. Сільніцкага (арганізаваны ў жн. 1943), імя А. П. Чарткова і імя Калініна (арганізаваны ў маі 1943). Камандзір Манахаў; камісар П. Р. *Кавалёў;* нач. штаба Ф. М. Баранаў, А. Р. Жураўлёў.

Партызаны вялі баі з ворагам, ратавалі мірнае насельніцтва ад загубы і вывазу на катаржныя работы ў Германію. Толькі ў ліп.— жн. 1943 пусцілі пад адхон і пашкодзілі 20 эшалонаў, падарвалі 3 масты на чыгунках і 12 на шашэйных і грунтавых дарогах, 25 аўтамашын, разграмілі 5 варожых гарнізонаў, 3—16.4.1944 вялі баі за выхад з блакады (гл. *Здзітаўская абарона 1944*), удзельнічалі ў аперацыі «рэйкавая вайна» на чыг. участку Бяроза — Івацэвічы.

12.7.1944 брыгада [1040 партызан; атрады імя Молатава (да кастр. 1942 атрад 112-ы), імя Сільніцкага, імя Чарткова (камандзір атрада імя Молатава А. П. Чарткоў загінуў у баі), імя Калініна] злучылася з Чырв. Арміяй. У в. Жытлін Івацэвіцкага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнік.



Група партызан брыгады імя М. Ф. Гастэлы.



Абмеркаванне плана баявой аперацыі. Камандзір атрада імя К. Я. Варашылава партызанскай брыгады імя Ф. Э. Дзяржынскага А. І. Гаўрыш (злева) і камісар атрада А. І. Кедраў.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ Ф. Э. ДЗЯРЖЫ́НСКАГА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Любчанскага р-на.

Створана ў кастр. 1943 на базе атрадаў імя Дзяржынскага (арганізаваны ў ліст. 1942, да кастр. 1943 дзейнічаў у *партызанскай брыгадзе імя І. В. Сталіна*) і імя Катоўскага (арганізаваны ў чэрв. 1943). Камандзір К. Ф. Шашкін,

камісар Я. П. *Ляхаў,* нач. штаба А. Х. Бляшаў.

Партызаны ў лютым — крас. 1944 на чыг. участках Маладзечна — Ліда, Ліда — Баранавічы падарвалі 24 варожыя эшалоны, 7 чыг. мастоў, у чэрв. 1944 — больш за 1 тыс. рэек. 5.3.1944 адначасова нанеслі ўдар па варожых апорных пунктах у в. Вял. Вераб'евічы, Басіна, 2.7.1944 — у в. Вераскава. 3.7.1944 штурмам авалодалі райцэнтрам Любча, знішчылі гарнізон, захапілі 7 кулямётаў, 13 аўтаматаў, больш за 200 вінтовак, харчовы і фуражны склады. 6.7.1944 пасля жорсткіх атак праціўніка пакінулі Любчу. 8.7.1944 зноў захапілі і ўтрымлівалі яе да падыходу перадавых часцей Чырв. Арміі (гл. *Любчанскія бai 1944*).

11.7.1944 брыгада (1052 партызаны; атрады імя Дзяржынскага, імя Катоўскага, імя Жданава, імя Варашылава, імя Свярдлова) злучыліся з Чырв. Арміяй. У 1965 у Лідзе ў гонар брыгады пастаўлена стэла, у 1969 у в. Бакшты Іўеўскага р-на — абеліск, у 1981 у в. Чарэшня Навагрудскага р-на — помнік, у 1969 у Любчы Навагрудскага р-на ўстаноўлена мемар. дошка.

А. Іванава і Л. Загнетава на чыг. участку Шаркоўшчына — Друя разабрала 300 м чыг. палатна, вывела са строю вузкакалейку Дукштас — Друя, якая не была адноўлена да канца акупацыі. Увосень 1943 і вясной 1944 вялі баі супраць карнікаў. У маі 1944 разбілі абоз, захапілі многа зброі, боепрыпасаў і прадуктаў харчавання, 2 ліп. разграмілі гарнізон і вызвалілі в. Опса, 9 ліп. разам з Чырв. Арміяй вызвалілі г. Браслаў, знішчалі асобныя групы ворага.

2.7. 1944 брыгада [815 партызан; атрады імя. П. І. Кліменценкі (нададзена імя камандзіра атрада Кліменценкі, які загінуў у баі ў маі 1944), імя Ракасоўскага, імя Пархоменкі, імя Чапаева, імя Суворава, імя Катоўскага, імя Чкалава] злучылася з Чырв. Арміяй. У 1960 у в. Замошша Браслаўскага р-на ў гонар брыгады пастаўлена стэла.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ Г. К. ЖУ́КАВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Стаўбцоўскага і Мірскага р-наў.

Створана ў сак. 1943 на базе асобных атрадаў «Камсамольскі» (пазней 1-ы камсамольскі), імя Сарокіна (арганізаваны ў кастр. 1942 на базе дыверсійнай групы М. А. Сарокіна), «Франтавікоў» гарнізон у г. п. Мір (гл. *Мірскі бой 1944*). У чэрв. — ліп. разбурылі пераправу цераз р. Сула, у баях захапілі 5 аўтамашын, кулямёт, 100 вінтовак, абоз, удзельнічалі ў «рэйкавай вайне» на чыг. участку Негарэлае — Коласава.

10.7.1944 брыгада (732 партызаны; атрады імя Суворава, імя Воранава, імя Ракасоўскага, «Мсцівец», «25 гадоў ВЛКСМ») злучылася з Чырв. Арміяй. У 1979 у в. Ярэмічы Карэліцкага р-на ў гонар брыгады пастаўлена стэла.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ М. І. КАЛІ́НІНА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Міёрскага р-на.

Створана 12.4.1944 на базе атрадаў 1-га (арганізаваны ў жн. 1943 у *партызанскай брыгадзе 2-й Ушацкай імя П. К. Панамарэнкі*) і 2-га (арганізаваны ў *партызанскай брыгадзе імя В. І. Чапаева* Віцебскай вобл.). Камандзір Ф. Н. *Гаўрыленка*, камісар М. А. Клімянок, нач. штаба М. М. Чупрак.

Партызаны ў кастр. 1943 спалілі ўсе масты на бальшаку Германавічы — Дзісна. У ліст. паспяхова правялі засадны бой супраць варожага гарні-



Група партызан брыгады імя А. Ф. Данукалава.



Артылерысты партызанскага атрада імя А. П. Чарткова брыгады імя Ф. Э. Дзяржынскага вывучаюць трафейную гармату.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ Г. К. ЖУ́КАВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Браслаўскага, Міёрскага, Дзісенскага р-наў.

Створана ў ліп. 1943 у Расонскім р-не на базе атрадаў імя Кутузава (арганізаваны ў снеж. 1942), імя Ракасоўскага (арганізаваны ў маі 1943), вылучаных *партызанскай брыгадай Расонскай імя І. В. Сталіна.* Камандзір П. Я. *Сырамаха;* камісары Сырамаха, П. П. Булойчык (загінуў), А. П. Запарожац, М. А. Кароўкін; нач. штаба Запарожац, В. С. Чаромін.

У час рэйду ў Вілейскую вобл. партызаны прайшлі з баямі больш за 200 км праз Полацкі, Ветрынскі, Дзісенскі, Міёрскі і Шаркоўшчынскі р-ны. У ліп. — жн. 1943 разграмілі гарнізоны ў в. Курылавічы і Германавічы Шаркоўшчынскага р-на, вялі бой каля в. Шпакоўшчына Ветрынскага р-на. У жн. група падрыўнікоў (арганізаваны ў лютым 1943) і групы Д. П. Шаркевіча («Данілы»). У снеж. 1943 для фарміравання брыгады «Камсамолец» вылучаны атрады 1-ы камсамольскі, 2-і камсамольскі, імя Калініна і зноў арганізаваны «Сокал». Камандзіры брыгады С. С. Ключко, М. Ц. Маскалёў, Р. Л. *Васілевіч;* камісары В. С. Самусевіч, У. З. *Царук*, А. З. *Гайсараў;* нач. штаба К. А. Афанасевіч, І. І. Пракоф'еў, В. Я. Шахроў, Я. І. Кайдалаў, В. І. Бажэнка.

Вясной і летам 1943 партызаны правялі 10 баёў, разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Ярэмічы Мірскага і Дудкі Стаўбцоўскага р-наў. У кастр. — ліст. на чыг. участках Мінск — Баранавічы, Ліда — Маладзечна падарвалі 3 эшалоны, 180 рэек. У лютым 1944 падарвалі 9 эшалонаў праціўніка, мост, пашкодзілі механічныя майстэрні ў дэпо ст. Мінск. У сак. (з брыгадай «Камсамолец») разграмілі варожы зона ў Дзісне, які накіроўваўся на барацьбу з партызанамі. У лютым 1944 напалі на гарнізон у в. Лужкі, у маі 1944 вялі бай супраць карнай экспедыцыі. Удзельнічалі ў аперацыі «рэйкавая вайна» на чыг. участку Навадруцк — Варапаева.

2.7.1944 брыгада (186 партызан; атрады 1-ы, 2-і, 3-і) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1975 у г. Міёры ў гонар брыгады пастаўлена стэла.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ М. І. КАЛІ́НІНА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Плешчаніцкага р-на.

Створана ў сак. 1944 на базе атрада імя Калініна (арганізаваны ў сакавіку 1943). Камандзір З. І. Нянахаў; камісар І. І. *Ясіновіч;* нач. штаба У. С. Міхайлоўскі, Ю. М. Мякішаў.

Партызаны пусцілі пад адхон 18 варожых эшалонаў, знішчылі 55 аўтамашын. У чэрв. 1944 падарвалі больш за 570 рэек, некалькі мастоў. Разам

з часцямі Чырв. Арміі наводзілі пераправы цераз р. Цна і Гайна, удзельнічалі ў вызваленні Плешчаніц.

28.6.1944 брыгада (511 партызан; атрады імя Калініна, імя Лазо, імя Шчорса, імя Свярдлова) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1975 у в. Прусавічы Лагойскага р-на пастаўлены помнік у гонар штаба брыгады

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА І́МЯ М. І. КАЛІ́НІНА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Рудзенскага, Мінскага, Пухавіцкага р-наў. Створана ў снеж. 1943 на базе атрада імя Калініна. Камандзір Л. І. Сарока, камісар П. А. Сачок, нач. штаба А. Ф. Дубінін. У брыгадзе дзейнічалі 3 атрады: імя Арджанікідзе, імя Кірава, імя Молатава. У сак. 1944 брыгада расфарміравана, з яе асабовага саставу ўзноўлены *партызанскі атрад імя М. І. Калініна* Мінскай вобл. і сфарміраваны партыз. атрад імя Калініна Баранавіцкай вобл. Партызаны праводзілі аперацыі на варожых камунікацыях, вялі разведвальную работу ў Мінску.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА І́МЯ С. М. КАРО́ТКІНА** (у чэрв. 1942— лют. 1943 партызанская брыгада Сіроцінская, у лют.— чэрв. 1943 партызанская брыгада імя Ф. Э. Дзяржынскага). Дзейнічала на акупіраванай тэр. Сіроцінскага, Расонскага, Полацкага, Ушацкага, Плісканга і Міёрскага р-наў.

Створана ў чэрв. 1942 на базе асобных партыз. атрадаў «Мсцівец», «Грозны» і імя Варашылава. У лют. 1943 брыгада падзялілася: з атрадаў «Мсцівец», імя Варашылава, «Сталінец» і роты атрада «Грозны» створана *партызанская брыгада імя У. І. Леніна.* Атрад імя ВЛКСМ у баях з карнікамі (май 1944) панёс цяжкія страты і быў рассеяны. Камандзіры брыгады С. М. *Кароткін* (загінуў), П. А. *Хомчанка, У. М. Талаквадзе;* камісары В. М. *Фралоў,* А. Б. *Эрдман;* нач. штаба У. Р. Аляксандраў, Хомчанка, М. Ф. Мацвеенка.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунках Полацк — Маладзечна, Віцебск — Полацк, Гарадок — Невель, на шашэйных і грунтавых дарогах. Разграмілі варожыя гарнізоны на ст. Язвіна (ліп. 1942, гл. *Язвінская аперацыя 1942*), Лоўжа (жн. 1942) Сіроцінскага, у в. Гута, Янчыкава, Званае і Балдышы Полацкага (крас. 1943), у в. Азерцы Пліскага (вер. 1943)



Камандны састаў брыгады імя М. І. Калініна.



У час Беларускай наступальнай аперацыі. Злева направа: камандзір атрада «Камсамол Беларусі» брыгады імя Кастуся Каліноўскага А. Я. Андрэеў, намеснік начальніка штаба Беластоцкага партызанскага злучэння І. А. Сянькевіч, начальнік штаба партызанскага руху ў Беластоцкай вобл. П. П. Капуста, начальнік штаба брыгады імя Кастуся Каліноўскага С. В. Чудзінаў.



Партызаны атрада «Звязда» брыгады імя Кастуся Каліноўскага. Жнівень 1944.



Партызаны брыгады імя С. М. Кірава на баявой пазіцыі. Лістапад 1943.

р-наў. У час *Лепельскай аперацыі 1943* прыкрывала ўдарныя брыгады з боку Полацка — Ветрына. У вер.— снеж. 1942, студз.— сак., маі — чэрв. 1943 вялі баі з карнікамі на тэр. Сіроцінскага, Асвейскага і Дрысенскага р-наў. У жн. 1943 на чыгунцы Полацк — Маладзечна падарвалі больш за 2 тыс. рэек. У крас.— маі 1944 у Полацка-Лепельскай партыз. зоне трымалі абарону каля в. Асінаўка — воз. Шо — в. Шоша, прарвалі блакаду каля ст. Кульгай Плiскага р-на і на мяжы в. Паперына — Новае Сяло Ушацкага р-на. У ліп. 1944 з часцямі Чырв. Арміі трымалі абарону на рубяжы в. Новы Пагост — воз. Важа Міёрскага р-на, удзельнічалі ў баі за в. Варапаншчына Браслаўскага р-на.

2.7.1944 брыгада (660 партызан; атрады «Грозны», імя Чапаева, «За перамогу», «Беларускі мсціvец», імя Дзяржынскага, імя Кірава) злучылася з Чырв. Арміяй. Брыгада ўвекавечана ў мемар. комплексе *«Прарыў»* у ліку 16 партыз. брыгад, у 1975 у в. Капылоўшчына Ушацкага р-на ў гонар брыгады ўстаноўлена мемар. дошка.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ КАСТУ́СЯ КАЛІНО́ЎСКАГА.** Да снеж. 1943 брыгада наз. «Пралетарыят». Дзейнічала на акупіраванай тэр. Беластоцкага, Граеўскага, Кнышынскага, Крынкаўскага, Саколкаўскага, Гродзенскага р-наў.

Створана ў ліст. 1943 на базе атрадаў «Кузнецкія металургі» (арганізаваны ў сак. 1943 у Маскве, 23 крас. дэсантаваны ў Івянецкі р-н, перайменаваны ў «Камсамол Беларусі»), «Звязда» (арганізаваны ў ліст. 1943 на базе арганізатарскай групы М. А. Казакова і групы У. А. Аўдоніна, якая дзейнічала ў Гродзенскім р-не з лета 1942). У лют. 1944 у брыгаду ўвайшоў атрад імя Матросава, арганізаваны ў кастр. 1943 на базе групы «Афанасьева» (І. А. Цімашэнкі), якая дзейнічала з ліп. 1941 у Беластоцкім, Заблудаўскім і Крынкаўскім р-нах. Камандзір М. К. *Вайцяхоўскі*, камісар Я. Г. *Осіпаў*, нач. штаба С. В. Чудзінаў.

Партызаны зрабілі больш за 100 дыверсій. Зрывалі перавозкі, знішчалі жывую сілу і тэхніку ворага, вялі баі па ліквідацыі апорных пунктаў ворага. 27.7.1944 разам з часцямі Чырв. Арміі ўдзельнічалі ў вызваленні г. Беласток.

20.7—18.8.1944 брыгада (769 партызан; атрады «Камсамол Беларусі», імя Матросава, «Звязда», «26 гадоў Кастрычніка», імя Кастуся Каліноўскага) паатрадна злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ С. М. КІРАВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Барысаўскага, Пухавіцкага, Рудзенскага, Чэрвеньскага р-наў.

Створана ў кастр. 1943 на базе вылучаных 1-й Мінскай брыгадай атрадаў імя Кірава, імя Варашылава (створаны ў жн. 1943) і імя Будзённага (створаны ў ліст. 1942). Камандзір М. І. *Карашкоў*, камісар Г. М. Папшаў, нач. штаба Р. М. Дзедаў.

Партызаны праводзілі аперацыі на камунікацыях Мінск — Барысаў, Мінск — Асіповічы і інш. У «рэйкавай вайне» падарвалі больш за 1,3 тыс. рэек. У крас. 1944 разграмілі гарнізоны ў в. Такавішча і Вял. Лукі Пухавіцкага р-на. У жн. 1943 вялі засадныя баі каля в. Ачыжа Чэрвеньскага, у снеж. каля в. Матарова Рудзенскага р-наў, у ліп.— жн. 1943, крас.— маі 1944— баі з карнікамі. Разам з Чырв. Арміяй вызвалілі г. Чэрвень. 29.6. 1944 брыгада (910 партызан; атрады імя Кірава, імя Будзённага, імя Варашылава, імя Жукава) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ С. М. КІРАВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Лідскага, Навагрудскага, Іўеўскага і Воранаўскага р-наў.

Створана ў чэрв. 1943 на базе атрадаў імя Варашылава, «Іскра» (арганізаваны ў ліст. 1942 на базе груп А. І. Феакціcтава, А. Ярмолава і В. А. Дзямідава), «Кастрычніцкі» (арганізаваны ў крас. 1942 як атрад 96-ы, дзейнічаў у Навагрудскім і Дзятлаўскім р-нах) і «Балтыец» (арганізаваны ў маі 1943), вылучаных *партызанскай брыгадай Ленінскай.* Камандзір Ф. М. *Сінічкін*, С. П. *Васільеў;*



Партызаны атрада «Іскра» брыгады імя С. М. Кірава абмяркоўваюць план баявой аперацыі.



Камандна-палітычны састаў брыгады імя С. М. Кірава з работнікамі Чэрвеньскага падпольнага РК КП(б)Б. 1943.

камісар С. М. *Кандакоў;* нач. штаба П. І. *Смірноў*, Васільеў, М. А. Пракаповіч. У ліст. 1943 атрад імя Варашылава разгорнуты ў *партызанскую брыгаду імя К. Я. Варашылава.*

У ліп. — снеж. 1943 партызаны разграмілі 7 паліцэйскіх участкаў, 20 валасных управ, 38 маёнткаў, 20 вер. на чыг. участках Гаўя — Юрацішкі, Наваельня — Яцукі падарвалі больш за 330 рэек. 29 кастр. на ст. Наваельня захапілі маняўровы цягнік і накіравалі яго на эшалон; у выніку разбіты паравоз і 8 вагонаў. Толькі ў снеж. на чыг. участках Ліда — Баранавічы і Ліда — Маладзечна зрабілі 10 дыверсій. Правялі 8 баёў, знішчылі 5 аўтамашын, захапілі 2 аўтамашыны, 2 кулямёты, 15 вінтовак. У студз. 1944 правялі бой каля райцэнтра Іўе, захапілі 25 вінтовак, 2 кулямёты, 3 аўтамашыны, праціўнік страціў шмат салдат. У час прарыву блакады партыз. злучэння Шчучынскай зоны разграмілі гарнізон у пас. Бярозаўка (шклозавод «Нёман»), разбурылі воданапорную вежу і паваротнае кола на ст. Ліда. У ліп. 1944 да прыходу Чырв. Арміі ўтрымлівалі пераправу цераз Нёман.

7.7.1944 брыгада (1028 партызан; атрады «Іскра», «Кастрычніцкі», «Балтыец», «Арол», імя Арджанікідзе, «За Савецкую Беларусь») злучылася з Чырв. Арміяй. Камандзіру брыгады Сінічкіну прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1965 у Лідзе ў гонар брыгады пастаўлена стэла, у 1969 у в. Бакшты Іўеўскага р-на — абеліск.



Партызаны брыгады імя С. М. Кірава на адпачынку пасля маршу. Лістапад 1943.



Партызаны брыгады імя С. М. Кірава вядуць агонь па варожых самалётах.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ С. М. КІРАВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Лунінецкага і Ленінскага р-наў.

Створана ў ліп. 1943 на базе атрада імя Кірава (арганізаваны ў чэрв. 1942). Камандзіры А. П. *Савіцкі*, Ф. І. *Лісовіч;* камісары Лісовіч, Р. П. Швец; нач. штаба А. І. Кубасаў.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыг. участках Мікашэвічы — Пінск, Лунінец — Малькавічы і шашэйных дарогах. Удзельнічалі ў аперацыі «рэйкавая вайна». Падрыўная група атрада імя Кірава пусціла пад адхон больш за 20 эшалонаў з жывой сілай і тэхнікай. Знішчылі 38 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі, 90 аўтамашын, патапілі 8 баржаў, паромаў, катэраў, падарвалі 23 чыг. масты. З атрадамі імя М. Ц. Шыша і «Камарова» (В. З. Каржа) разграмілі гарнізоны ворага ў в. Лунін, Бастынь, Парахонск (жн. 1942), Ленін (вер. 1942, гл. *Ленінскі бой 1942*), чыг. ст. Сінкевічы (кастр. 1942, гл. *Сінкевіцкая аперацыя 1942*), дзе знішчылі станцыйную гаспадарку, эшалон з боепрыпасамі (рух спынен на 3 тыдні). У студз.— сак. 1943 вялі баі з карнікамі і выратавалі ад загубы жыхароў в. Радзігерава, Флёрава, Манасеева, Чарабасава Лунінецкага р-на. У крас. — ліп. 1944 правялі засадныя баі каля в. Сошна, Малькавічы, Задуб'е, Бастынь, Бакінічы, Мелясніца, Крэсцінава і інш., мініравалі шляхі адступлення варожых часцей. У ліп. 1944 з Чырв. Арміяй вялі баі на чыг. участку Бастынь — Дзятлавічы.



Партызаны брыгады імя С. М. Кірава накіроўваюцца на баявую аперацыю. 1943.

8.7.1944 брыгада (1265 партызан; атрады «За Радзіму», імя Калініна, імя Сталіна) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1964 у г. Лунінцы ў гонар брыгады ўстаноўлена мемар. дошка.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ С. М. КІРАВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Халопеніцкага, Крупскага, Барысаўскага р-наў.

Створана ў снеж. 1942 на базе атрада імя Кірава (арганізаваны ў жн. 1942). Камандзір Ф. Ц. *Пуставіт*; камісары І. І. *Панкевіч*, М. А. *Пасекаў*; нач. штаба П. Р. Сівакоў (в. а.), В. А. Шаркоў, А. М. Гамеза.

Партызаны наносілі ўдары па варожых камунікацыях на чыг. участку Барысаў — Крупкі і прылеглых да яго дарогах. Падарвалі і спалілі 15 мастоў на грунтавых і шашэйных дарогах, у студз. 1943 удзельнічалі ў нападзе на варожы гарнізон у в. Красналукі Халопеніцкага р-на. У чэрв. 1943 вялі баі з карнікамі на р. Гурба ў Халопецкім р-не і каля в. Сялец і Пастрэжжа Бягомльскага р-на. У снеж. 1943 спалілі ў Барысаве 5 ням. складоў. Зрабілі 21 дыверсію ўздоўж чыгункі Мінск — Барысаў, каб падарваць падземны кабель, які злучаў фронт са стаўкай Гітлера. У чэрв.— ліп. 1944 з часцямі Чырв. Арміі ачышчалі тэр. Халопеніцкага і Барысаўскага р-наў ад варожых груп.

28.6.1944 брыгада (771 партызан; атрады імя Кірава, імя Фрунзе, «За перамогу», «Чацвёрты») злучылася з Чырв. Арміяй. У 1965 у в. Жортай Барысаўскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнік.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ В. У. КУ́ЙБЫШАВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Целяханскага і Лагішынскага р-наў.

Створана ў ліст. 1943 на базе атрадаў імя Куйбышава (арганізаваны ў маі 1943, потым імя А. Ф. Баруцкага, партызана, які гераічна загінуў у баі ў студз. 1943), імя Арджанікідзе (арганізаваны ў маі 1943), імя Кагановіча і групы Дз А. Ліпаткіна (68 чал.). Камандзір брыгады У. М. *Антановіч*, камісар Ф. С. *Міхалковіч*, нач. штаба З. У. Сысоеў.

Партызаны праводзілі дыверсіі на камунікацыях ворага. У ноч на 20.6. 1944 на чыг. Лунінец — Пінск падарвалі каля 580 рэек. Знішчылі 32 аўтамашыны, 7 чыг. мастоў, 74 масты на шашэйных і грунтавых дарогах і 52,3 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі. У ліп. 1944 мініравалі грунтавыя дарогі Лунін — Багданаўка — Пагост-Загародскі — Лагішын, тут жа вялі баі з праціўнікам, якія адступаў. 12—14.7.1944 з часцямі Чырв.

Арміі вызвалілі Лагішын, ст. Лунін і Лоўча.

10.7.1944 брыгада (771 партызан; атрады імя Баруцкага, імя Шчорса, імя Арджанікідзе) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ М. І. КУТУ́ЗАВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Гарадоцкага і Суражскага р-наў.

Створана ў вер. 1942 на базе асобнага атрада С. Т. Воранава, сфарміраванага з ініцыятыўнай групы на чале з С. Т. Воранавым, вылучанай у маі 1942 з *партызанскай брыгады 1-й Беларускай*. У сак. 1943 пасля баёў з карнікамі 3-і атрад рассеяны, штаб брыгады і атрады 2-і і 5-ы (240 партызан) выйшлі ў сав. тыл і расфарміраваны. У крас. 1943 камандаванне брыгады з групай партызан (80 чал.) вярнуліся ў тыл ворага. 4-ы атрад у маі 1943 расфарміраваны. Камандзір брыгады С. Т. *Воранаў*, камісар П. Я. *Рыбакоў*, нач. штаба М. І. Гапеенка.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунцы Віцебск — Невель, шашэйных і грунтавых дарогах. Разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Прывальні (ліст. 1942), Стары і Новы Болецк, Лапушніца, Казырова (студз. 1943), Раманава (май 1943), Дуброва (вер. 1943), Гарадоцкага, у в. Быкі (снеж. 1942) Мехаўскага, Селязні і Лунькі (жн. 1943) Суражскага р-наў. У лют.— сак. і маі 1943 вялі абарончыя баі супраць карнікаў. У жн. 1943 падарвалі больш за 500 рэек.

4.11.1943 брыгада [315 партызан; атрады 1-ы, 2-і (2-га складу), 3-і (2-га складу)] злучылася з Чырв. Арміяй. У 1979 каля в. Дуброва Гарадоцкага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнік.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ М. І. КУТУ́ЗАВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Крывіцкага р-на.

Створана ў жн. 1943 на базе атрадаў П. Ф. *Рудава* (арганізаваны ў сак. 1943 на базе групы Рудава), Д. Л. *Місунова* (арганізаваны ў жн. 1943 на базе групы партызан на чале з Місуновым, вылучанай Лепельскай брыгадай імя Сталіна) і А. І. *Шаўчэнкі* (арганізаваны ў сак. 1943 на базе групы Шаўчэнкі). Камандзір Місуноў; камісары Рудаў, В. І. Бурачэўскі; нач. штаба Ц. М. Бондараў, М. Х. Красненкаў (загінуў), Я. Е. Малюшкін.

Партызаны рабілі дыверсіі на чыгунках і шашэйных дарогах. У кастр.— ліст. 1943 на чыг. участку Зябкі — Падсвілле падарвалі 3 масты. У 1943—44 некалькі разоў выводзілі са строю дарогу Сакавічы — Горна — Ізбішча, у вер. 1943 вялі 3-дзённы бой каля в. Мацеева Крывіцкага р-на. У маі 1944 разграмілі гарнізон у в. Даўгінава. У чэрв. 1944 падарвалі больш за 950 рэек. Летам 1944 вялі жорсткія баі з карнікамі, прарвалі варожую блакаду. Да прыходу Чырв. Арміі занялі в. Даўгінава і Крывічы. 1.7. 1944 брыгада (400 партызан; атрады 1-ы, 6-ы, 3-і, разведвальны 8-ы) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ У. І. ЛЕ́НІНА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Ганцавіцкага і Целяханскага р-наў.

Створана ў крас. 1943 на базе атрадаў В. А. *Васільева* — І. В. Зібарава (арганізаваны ў сак. 1942) і імя Чапаева (арганізаваны ў снеж. 1942). Камандзір брыгады Васільеў, камісар Зібараў, нач. штаба М. Дз. Кісцюнін.

У чэрв.— ліп. 1942 атрад Васільева разграміў гарнізоны і паліцэйскія ўчасткі ворага ў в. Хомск Драгічынскага, Адрыжын Іванаўскага, у кастр.— у в. Чудзін (гл. *Чудзінскі бой 1942*) Ганцавіцкага р-наў, у г. п. Чырвоная Слабада (гл. *Чырвонаслабодскі бой 1942*). У вер.— кастр. 1942 атрад Васільева вёў баі з карнікамі каля в. Колкі Клецкага, Старына і Смалічы Чырвонаслабодскага р-наў, у студз. 1943 каля хутара Дубіца, в. Гаўрыльчыцы, у ліп. каля в. Дабрамысль Целяханскага р-на, у студз. 1944 каля в. Вялікія і Малыя Чучавічы Лунінецкага р-на. Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунках і шашэйных дарогах. Толькі ў ноч на 6.8.1943 на чыгунцы Лунінец — Баранавічы падарвалі больш за 1,9 тыс. рэек (рух спынены на 14 сутак), у вер. 1943 — больш за 3 тыс. рэек. У лютым 1944 разграмілі варожы гарнізон у в. Дзяніскавічы, у маі напалі на ст. Люсіна Ганцавіцкага р-на. Разам з часцямі Чырв. Арміі вялі баі каля ст. Люпча, Бастынь, в. Перакрэсце (на дарозе Лунінец — Багданаўка), Альшанка.



Партызаны брыгады імя В. У. Куйбышава вяртаюцца з баявога задання з параненым таварышам.

7.7.1944 брыгада (1067 партызан; атрады імя Чапаева, імя Дзяржынскага, імя Фрунзе, імя Кутузава, кавалерыйскі эскадрон) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1944 у в. Чудзін Ганцавіцкага р-на ў гонар брыгады, у 1961 у г. п. Чырвоная Слабада Салігорскага р-на ў гонар атрада Васільева ўстаноўлены мемар. дошкі.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ У. І. ЛЕ́НІНА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Маларыцкага і Дамачоўскага р-наў.

Створана ў крас. 1944 на базе атрадаў імя Варашылава (арганізаваны ў лют. 1943) і імя Жукава (арганізаваны ў ліп. 1943), вылучаных з *партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна* Брэсцкай вобл. Камандзір В. В. Каткоў, камісар В. М. Грабянёў, нач. штаба Л. С. Гуляеў.

Партызаны вялі баі па ліквідацыі варожых апорных пунктаў і валасных упраў. Пры нападзе на гарнізон у райцэнтры Дамачова знішчылі склады са збожжам, сыравінай, захапілі шмат зброі. У жн.— кастр. 1943 падарвалі 3 эшалоны, 19 мастоў, у т. л. 1 чыгуначны, разабралі 1 км чыг. палатна, пашкодзілі 4 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі. Разам з мясцовымі жыхарамі вывелі са строю ўчастак шашэйнай дарогі Брэст — Уладава. У ноч на 15.11.1943 атрад імя Жукава разграміў гарнізон ворага ў Шацку Валынскай вобл. (каля 400 ням. салдат і паліцэйскіх). У час бою знішчыў варожыя склады, захапіў у палон каля 100 ням. паліцэйскіх, шмат зброі.

20.7.1944 брыгада [1151 партызан; атрады імя Варашылава, імя Жукава, імя Зяленіна (атраду нададзена імя камандзіра партыз. брыгады імя Сталіна Л. П. Зяленіна, які загінуў у баі)] злучылася з Чырв. Арміяй.



Група каманднага саставу брыгады імя М. І. Кутузава. Злева направа: в. а. камандзіра 6-га атрада У. П. Вінаградаў, камандзір брыгады Д. Л. Місуноў, начальнік разведкі І. А. Сашын, камандзір 1-га атрада Я. Е. Малюшкін.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ У. І. ЛЕ́НІНА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Сіроцінскага, Расонскага, Ушацкага, Гарадоцкага, Бешанковіцкага, Шаркоўшчынскага і Дзісенскага р-наў.

Створана ў сак. 1943 на базе атрадаў «Мсцівец» (потым імя Фрунзе), імя Варашылава, «Сталінец» (потым імя Чапаева) і роты атрада «Грозны» *партызанскай брыгады імя С. М. Кароткіна*. Камандзір брыгады М. А. *Сакмаркін;* камісар А. У. *Сіпко;* нач. штаба Т. К. Раеўскі, А. К. Ізафатаў (загінуў), У. Р. Аляксандраў (загінуў), І. І. Канюхоў.

Партызаны ўчынялі дыверсіі на шашэйных і грунтавых дарогах. У апе-

рацыі «рэйкавая вайна» падарвалі і папсавалі больш за 1,8 тыс. рэек. Разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Даўгаполле і Маскаляняты (люты 1943) Гарадоцкага, Мішневічы (сак. 1943), Дварышча (чэрв. 1943) Сіроцінскага, Кардон (чэрв. 1943), Лявонава (ліп. 1943) Ушацкага р-наў, вялі абарончыя баі каля в. Заскаркі (чэрв. 1943) Ветрынскага, Чэрчыцы, Адэліна (ліп. 1943), Дворнікі, Шавурына (ліст. 1943) Ушацкага р-наў. У час *Лепельскай аперацыі 1943* брыгада прыкрывала з У і ПнУ ударную лепельскую групоўку партызан ад варожых гарнізонаў. У 1944 вяла абарончыя баі каля в. Адэліна, Загаволіна, Бальбінава, Ляхава, Кавалеўшчына Ушацкага р-на. У крас.— маі 1944 у баях супраць карнікаў партызаны ўтрымлівалі лінію абароны на рубяжы в. Залужэнне, Ляхава, Краснае, Муравец, Павулле і інш. Ушацкага р-на, правалі варожую блакаду на мяжы в. Новае Сяло, Селішча, чыгункі Полацк — Маладзечна на ўчастку ст. Кульгай — Загацце і шашы Лепель — Беразіно. У маі — чэрв. 1944 вялі баі з карнікамі ў Дзісенскім р-не, правалі абарону праціўніка на ўчастку в. Красоўшчына — Стары Пагост. Перад наступленнем Чырв. Арміі ўтрымлівалі лінію абароны на рубяжы в. Шаркоўшчына — Гарбуны — Пятровічы — Чаславава — Пялікі і на ўчастку в. Касцяні — Кураполле — Дзеткава Пастаўскага р-на.

2.7.1944 брыгада (571 партызан; атрады імя Фрунзе, імя Кірава, імя Варашылава, імя Сталіна, імя Суворава, імя Чапаева, імя Кутузава) злучылася з Чырв. Арміяй. Брыгада ўвекавечана ў мемар. комплексе *«Прарыў»* у ліку 16 партыз. брыгад. У 1976 у в. Быстрыкі Ушацкага р-на ўстаноўлена мемар. дошка.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ ЛЕ́НІНСКАГА КАМСАМО́ЛА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Васілішкаўскага, Радунскага, Шчучынскага р-наў.

Створаны ў вер. 1943 на базе атрада імя Ленінскага камсамола, арганізаванага ў сак. 1943. Камандзіры А. В. *Станкевіч* (загінуў), А. А. *Патапаў;* камісары Патапаў, Б. І. *Гардзейчык;* нач. штаба Д. Ц. Гёнка, Н. Л. Нагорны, І. П. Анапрыенка.

Партызаны вялі агітацыйна-масавую работу сярод насельніцтва, ахоўвалі мясцовых жыхароў ад загубы і вывазу на катаржныя работы ў Германію, разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Азёры і Кобраўцы Васілішкаўскага р-на, знішчылі 22 маёнткі гітлераўцаў. Дыверсіі праводзілі на чыгунках Вільнюс — Гродна і Гродна — Ліда.

11.7.1944 брыгада (462 партызаны; атрады імя Катоўскага, імя Матросава, «За Савецкую Беларусь», імя Ванды Васілеўскай) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1965 у Лідзе ў гонар брыгады пастаўлена стэла.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ В. М. МО́ЛАТАВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Антопальскага, Жабчыцкага, Пінскага, Лагішынскага, Столінскага, Іванаўскага, Драгічынскага р-наў БССР і Любяшоўскага, Камень-Кашырскага р-наў Валынскай вобл.

Створана ў крас. 1943 на базе атрадаў імя Шыша (арганізаваны ў крас. 1942, камандзір атрада М. Ц. *Шыш* гераічна загінуў 25.6.1942), імя Лазо (арганізаваны ў ліст. 1942), імя Суворава (арганізаваны ў ліст. 1942). Камандзір брыгады М. І. *Герасімаў;* камісар Ф. С. *Кунькоў;* нач. штаба М. Л. Праходскі, Дз. К. Удовікаў. З ліп. 1943 у брыгаду ўваходзілі атрады імя Чапаева, імя Сталіна, імя У. Р. Нямытава, імя Тадэвуша Касцюшкі, імя Арджанікідзе, якія ў жн. перададзены *партызанскай брыгадзе Пінскай,* атрад імя Кутузава — *партызанскай брыгадзе «Савецкая Беларусь».*

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунцы Брэст — Пінск, Лунінец — Баранавічы, Ковель — Брэст і на Дняпроўска-Бугскім канале (гл. *Дняпроўска-Бугская аперацыя 1943*). У крас. 1942 вялі баі каля в. Дзеткавічы Драгічынскага р-на, у чэрв. разграмілі ворага каля в. Ямнік. У кастр. атрады імя Шыша і «Пятровіча» (А. П. Савіцкага) разграмілі чыг. ст. Сінкевічы (гл. *Сінкевіцкая аперацыя 1942*), знішчылі мост на р. Лань, эшалон з боепрыпасамі. З вер. да ліст. 1943 на чыг. участку Антопаль — Янаў-Палескі падарвалі 2,4 тыс. рэек (рух спынены на 12 сутак). У ліп. 1943 разграмілі варожы гарнізон у Любяшове Валынскай вобл. (гл. *Любяшоўскі бой 1943*) і чыг. ст. Вулька Іванаўскага р-на, падарвалі 2,5 км чыг. палатна, чыг. мост, знішчылі 3 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі. У гэтай аперацыі ўдзельнічала насельніцтва навакольных вёсак. У лютым і сак. 1944 вялі баі з праціўнікам на Дняпроўска-Бугскім канале і Прыпяці (гл. *Дняпроўска-Бугскага канала абарона 1944*), каля в. Белін, Зарэчка Драгічынскага р-на.

30.3. 1944 брыгада [1311 партызан; атрады імя Шыша, імя Лазо, імя Суворава, імя Калініна, імя Паталаха (нам. камандзіра атрада П. П. Паталах гераічна загінуў у баі)] злучылася з Чырв. Арміяй. Пасля злучэння з Чырв. Арміяй брыгада перадыслацыравана на акупіраваную тэр. Гомельскай вобл., дзе дзейнічала да ліп. 1944. У 1966 каля в. Зарэчка Драгічынскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнік, у 1965 у г. Івацэвічы, у 1974 у в. Закозель Драгічынскага р-на ўстаноўлены мемарыяльныя дошкі.



Партызаны атрада імя М. Ц. Шыша брыгады імя В. М. Молатава ў паходзе.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ П. К. ПАНАМАРЭ́НКІ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Бярозаўскага, Касаўскага, Пружанскага, Ружанскага, Слонімскага р-наў.

Створана ў чэрв. 1943 на базе атрадаў імя Дзімітрава (арганізаваны ў крас. 1942), імя Суворава, імя Кірава (арганізаваны ў лют. 1943), імя Чкалава, «Савецкая Беларусь» (арганізаваны ў вер. 1942) і дыверсійнай групы М. Ф. Новіка. Камандзіры брыгады І. П. *Урбановіч,* М. У. *Сенькін;* камісары С. П. Пацыруха, К. Дз. *Галочка* (загінуў), М. Е. Крыштафовіч; нач. штаба Р. К. Дарафееў, Ц. С. Коваль. У жн. 1943 атрады імя Суворава, імя Чкалава, імя Дз. Пажарскага перададзены *партызанскай брыгадзе «Савецкая Беларусь».*

Баявыя дзеянні партызаны праводзілі на чыгунках і шашэйных дарогах, зрывалі перавозкі, знішчалі баявую тэхніку і жывую сілу, маёнткі, апорныя пункты ворага. У крас. 1943 разбілі гарнізон у в. Харошча Касаўскага р-на, у ліст. вялі баі з карнікамі каля в. Бялавічы Касаўскага р-на, у лютым 1944 разбілі гарнізон у в. Баравікі Слонімскага р-на.

11.7.1944 брыгада (1537 партызан; атрады «Савецкая Беларусь», імя Дзімітрава, імя Кірава, імя Гастэлы) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1975 каля в. Смаляніца Пружанскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнік.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ П. К. ПАНАМАРЭ́НКІ.** Дзейнічала на

акупіраванай тэр. Дзяржынскага, Мінскага і Івянецкага р-наў.

Створана ў снеж. 1943 на базе атрадаў імя Будзённага (арганізаваны ў чэрв. 1942) і імя Панамарэнкі (арганізаваны ў кастр. 1943), вылучаных *партызанскай брыгадай імя І. В. Сталіна*. Камандзір С. Р. *Ганзенка*, камісар Г. В. *Будай*, нач. штаба У. М. Зыкаў.

У вер. 1943 атрад імя Будзённага разграміў апорны пункт у в. Чырвоная Горка, на чыг. участку Фаніпаль — Койданава падарваў каля 180 рэек. У чэрв. 1944 партызаны брыгады падарвалі 480 рэек, спалілі эшалон з ваен. тэхнікай і прадуктамі. Правялі шмат адкрытых і засадных баёў, у т. л. ў в. Путчына і Глушынцы Дзяржынскага р-на. У ліп. 1944 перарэзалі шлях адступлення разбітым ням. войскам у Налібоцкую пушчу, узаемадзейнічалі з падраздзяленнямі 348-й стралк. дывізіі Чырв. Арміі.

6.7.1944 брыгада (752 партызаны; атрады імя Будзённага, імя Панамарэнкі, імя 25-годдзя БССР, імя Цімашэнкі, імя Воранава, імя Васілеўскага) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА І́МЯ П. К. ПАНАМАРЭ́НКІ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Жлобінскага, Рэчыцкага, Стрэшынскага, Парыцкага, Васілевіцкага р-наў.

Створана ў вер. 1943 на базе атрада «Смерць фашызму» (арганізаваны ў кастр. 1942). Камандзір брыгады І. І. Бандарэнка, камісар Я. Р. Садавой, нач. штаба К. В. Ніжнікаў.

Партызаны ў снеж. 1942, студз.— крас., чэрв., кастр. 1943 удзельнічалі ў баях супраць карнікаў, у разгроме варожых апорных пунктаў у в. Мормаль, Таўстыкі, г. п. Стрэшын Стрэшынскага, в. Радуша Жлобінскага р-наў, у баях каля в. Лубенікі, пас. Майскі Брагінскага, в. Пружынішчы Парыцкага, в. Новыя Маркавічы Стрэшынскага р-наў. У жн. 1943 падарвалі каля 200 рэек. У ліст. 1943 пры падыходзе часцей Чырв. Арміі з брыгадай «Жалязняк» і атрадам 108-м імя Катоўскага перарэзалі дарогу Горваль — Шацілкі, вялі засадныя баі, у в. Горваль захапілі больш за 100 варожых аўтамашын (гл. *Горвальская аперацыя 1943*).

21.11.1943 брыгада (938 партызан; атрады «Смерць фашызму», імя Жукава, імя Калініна) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1975 каля в. Антонаўка Жлобінскага р-на ў гонар атрада «Смерць фашызму» пастаўлены абеліск.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА І́МЯ П. К. ПАНАМАРЭ́НКІ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Пухавіцкага, Старадарожскага, Ганцавіцкага, Косаўскага, Ружанскага р-наў.

Створана ў ліст. 1943 на базе атрадаў «Сокал» (арганізаваны ў жн. 1942) і імя Цімашэнкі (арганізаваны ў маі 1943), вылучаных *партызанскай брыгадай 2-й Мінскай*. Камандзір С. М. *Іваноў*, камісар Р. Д. *Юркевіч*, нач. штаба І. Н. Цішчанка. У снеж. 1943 зрабіла баявы рэйд з Пухавіцкага р-на ў Клецкі р-н, летам 1944 — у Ружанскі р-н і ўвайшла ў партыз. злучэнне Беластоцкай вобл.

Партызаны вялі баі з ворагам, ратавалі сав. грамадзян ад загубы і вывазу на катаржныя работы ў Германію. Праводзілі дыверсіі на чыг. участках Рудзенск — Асіповічы, Баранавічы — Ганцавічы. На дарозе Будча — Дзяніскавічы падарвалі некалькі аўтамашын з жывой сілай праціўніка. Вялі баі па ліквідацыі апорных пунктаў ворага. Разам з партыз. брыгадамі імя Леніна Пінскай вобл. і 12-й кавалерыйскай імя Сталіна Мінскай вобл. разграмілі варожы гарнізон у в. Дзяніскавічы Ганцавіцкага р-на. 13.7.1944 брыгада (623 партызаны; атрады «Сокал», імя Цімашэнкі, імя Талаліхіна, імя Панамарэнкі, кавалерыйскі эскадрон імя Сталіна) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА І́МЯ П. К. ПАНАМАРЭ́НКІ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Халопеніцкага, Барысаўскага, Крупскага р-наў.

Створана ў студз. 1944 на базе атрадаў «За Радзіму» (раней «Стары», арганізаваны ў чэрв. 1942), «Гвардзеец» (арганізаваны ў чэрв. 1942), імя Варашылава. Камандзір Ф. С. *Харланаў*, камісар І. Ф. *Ісачанка*, нач. штаба І. С. Баранаў.

Партызаны правялі 53 дыверсіі на чыгунках Орша — Барысаў, Вілейка — Полацк. У «рэйкавай вайне» знішчылі 1467 м рэек. Спалілі 7 ням. складоў з гаручым, боепрыпасамі, харчовымі прадуктамі, аўтагараж. Разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Навасёлкі (жн. 1943), Бродаўка (крас. 1944) Барысаўскага р-на, нападалі на гарнізоны ў в. Красналукі Халопеніцкага р-на (студз. 1943, разам з брыгадай імя Кірава), Кішчына Слабада (сак. 1944), в. Зачысце (сак. 1944) Барысаўскага р-на. 1.7.1944 брыгада (935 партызан; атрады «За Радзіму», «Гвардзеец», імя Варашылава, імя Ватуціна) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА І́МЯ К. К. РАКАСО́ЎСКАГА.** Да сак. 1943 наз. партыз. брыгада «За Савецкую Беларусь». Дзейнічала на акупіраванай тэр. Себежскага, Ідрыцкага, Невельскага р-наў Калінінскай вобл., Расонскага, Асвейскага, Дрысенскага, Полацкага, Пастаўскага, Дунілавіцкага, Докшыцкага, Міёрскага, Глыбоцкага, Мядзельскага р-наў БССР.

Створана ў ліп. 1942 на базе атрадаў імя Сталіна, імя Варашылава, імя Чапаева, імя Чкалава, імя Молатава і 17-га атрада асобага прызначэння 29-й арміі. У брыгаду ўключаны і самастойна дзейныя атрады імя Сяргея, імя Шчорса, імя Фрунзе. Гэтыя і створаныя пазней атрады зведзены адпаведна іх раёнам дыслакацыі і дзеяння ў групы атрадаў Расонскага, Дрысенскага, Асвейскага р-наў, якія ў жн. 1942 пераўтвораны ў брыгады (гл. *Партызанская брыгада Расонская імя І. В. Сталіна, Партызанская брыгада 1-я Дрысенская, Партызанская брыгада Асвейская імя М. В. Фрунзе*). У вер. 1942 атрад імя Пархоменкі накіраваны ў Вілейскую


Партызаны атрада імя С. Г. Лазо брыгады імя В. М. Молатава каля гарматы, захопленай у гітлераўцаў.



Сцяг партызанскага атрада імя Г. К. Жукава брыгады імя К. К. Ракасоўскага.

вобл. [гл. *Партызанская брыгада імя ЦК КП(б)Б*]. У чэрв. 1943 брыгада перадыслацыравана ў Вілейскую вобл. Камандзіры А. І. Петракоў, У. Н. Дорменеў (в. а.), А. В. *Раманаў* (в. а.); камісары Раманаў, Ш. Н. *Нігамаеў* (в. а.), П. М. *Машэраў*; нач. штаба Дорменеў, Г. І. Казарцаў (в. а.), У. П. Шчуцкі.

У жн. 1942 партызаны падарвалі 110-метровы чыг. мост праз р. Дрысу і знішчылі гарнізон ворага (гл. *Дрысенская аперацыя 1942*), адначасова напалі на гарнізон у в. Боркавічы Дрысенскага р-на. У вер. 1942 разграмілі гарнізон на чыг. ст. Свольна Дрысенскага р-на, разам з партызанамі брыгад Дрысенскай і Асвейскай імя Фрунзе правялі аперацыю па адначасовым разгроме варожых гарнізонаў на чыг. ст. Боркавічы і Дрыса (кастр. 1942), разграмілі гарнізон у в. Вецслабада (гл. *Вецслабадскі бой 1943*). У лют. 1943 удзельнічалі ў баях супраць карнай экспедыцыі каля в. Юхавічы, Непадовічы, Прахорава, Паўлава, Нішча Расонскага р-на, каля в. Чурглі, Леснікова, Рубчыкі, Каханавічы Дрысенскага і Асвейскага р-наў. У сак. 1943 атрады імя Шчорса, імя Катоўскага, імя Сяргея і імя Леніна разам з атрадамі Дрысенскай брыгады ўдзельнічалі ў штурме варожага гарнізона ў в. Каханавічы Асвейскага р-на, вялі абарончыя баі з карнікамі ў Асвейскім і Расонскім р-нах. У чэрв. брыгада зрабіла баявы марш з Расонскага ў Пастаўскі р-н, у час якога вяла баі з ворагам пры пераходзе цераз чыг. Полацк — Дрыса і фарсіраванні Зах. Дзвіны, напала на гарнізон у Міёрах. Партызаны вялі баі каля г. п. Відзы (сак. 1944), в Ажуны (крас. 1944), напалі на гарнізоны ў в. Варапаева Дунілавіцкага (крас. 1944) і в. Валодзькі Докшыцкага (май 1944) р-наў. У крас. 1944 памагалі партызанам Полацка-Лепельскай зоны ў барацьбе супраць карнікаў. У ноч на 20.6.1944 на чыг. участках Крулеўшчына — Параф'янава, Крулеўшчына — Глыбокае і Глыбокае — Варапаева — Паставы падарвалі больш за 1,3 тыс. рэек. Атрады імя Шчорса і імя Катоўскага перакрылі шлях адступлення праціўніку на дарогах Лучай — Дунілавічы, Дунілавічы — Ласіца. У ліп. 1944 разам з часцямі Чырв. Арміі ўдзельнічалі ў вызваленні г. п. Дунілавічы.

3.7.1944 брыгада [915 партызан; атрады імя Сяргея (створаны ў студз. 1942 у Себежскім р-не з групы С. Б. Майсеенкі, атраду нададзена імя яго камандзіра Майсеенкі, які загінуў у маі 1942), імя Шчорса (створаны ў крас. 1942 з падпольшчыкаў Расонскай парт.-камс. арг цыі на чале з Машэравым, гл. ў арт. *Расонскае партыйна-камсамольскае падполле*), імя Леніна, імя Катоўскага, імя Жукава, імя Дзяржынскага, імя Петракова (да крас. 1943 атрад 17-ы, створаны ў чэрв. 1942)] злучылася з Чырв. Арміяй. Камісару брыгады Машэраву і нам. камандзіра атрада імя Шчорса па разведцы У. А. *Хамчаноўскаму* (пасмяротна) прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1979 на ўскраіне в. Роўнае Поле Расонскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнік.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ К. К. РАКАСО́ЎСКАГА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Слонімскага і Быценскага р-наў.

Створана ў студз. 1944 на базе асобных атрадаў імя Панамарэнкі (арганізаваны ў снеж. 1942), імя Дзяржынскага (арганізаваны ў жн. 1943), імя Сталіна (арганізаваны ў снеж. 1943) і імя Ракасоўскага. Камандзір Я. А. Прыданнікаў, камісар Р. Ц. *Вараб'ёў*, нач. штаба М. П. Каралёў.

Асноўныя ўдары партызаны наносілі па варожых камунікацыях на чыг. Слонім — Баранавічы, Ліда — Баранавічы. Толькі ў сак. 1944 падарвалі 16 эшалонаў, знішчылі 2 масты, 15 аўтамашын. Вялі баі з праціўнікам, які спрабаваў уварвацца ў партыз. зону. У лютым 1944 разграмілі некалькі гарнізонаў і апорных пунктаў ворага.

10.7.1944 брыгада (808 партызан; атрады імя Панамарэнкі, імя Дзяржынскага, імя Сталіна, імя Ракасоўскага, імя Фурманава, сямейны «За Радзіму») злучылася з Чырв. Арміяй.



Партызаны брыгады імя П. К. Панамарэнкі.



Кулямётчыкі партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна на агнявым рубяжы каля в. Антонава Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. 1943.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ Я. М. СВЯРДЛО́ВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Іванаўскага, Ганцавіцкага, Драгічынскага, Антопальскага, Бярозаўскага р-наў.

Створана ў ліст. 1943 на базе атрадаў імя Чкалава (арганізаваны ў кастр. 1941, у жн. 1942 уліўся ў атрад Ю. А. Бярэнчыка, арганізаваны на базе партыз. групы, якая дзейнічала з ліп. 1941 у Бярозаўскім р-не), імя Макарэвіча (створаны ў вер. 1942 у Іванаўскім р-не на базе маладзёжнай групы, якую ў ліп. 1941 арганізавалі патрыёты з в. Моталь і Опаль, і групы, што ўзнікла ў крас. 1942 у Драгічынскім р-не). Камандзір І. П. *Марыняка*, камісар Р. А. *Дудко*, нач. штаба А. І. Сямёнаў.

У 1942—43 партызаны разграмілі больш за 20 апорных пунктаў ворага, валасных управ, маёнткаў, разбурылі шмат прадпрыемстваў, мастоў на чыг., шашэйных і грунтавых дарогах, у т. л. масты на р. Ясельда, на чыг. ст. Драгічын, Снітава. Толькі ў чэрв. 1944 на чыг. участку Люшча — Люсіна пашкодзілі 4 км палатна. Ахоўвалі сямейныя лагеры, дзе жыло больш за 1,3 тыс. мірных жыхароў, працавала 6 пачатковых школ. 16.7.1944 брыгада [1001 партызан; атрады імя Чкалава, імя Макарэвіча (атраду нададзена імя камандзіра атрада Я. Г. Макарэвіча, загінуў у бai), імя Жданава, імя Бажэнкі] злучылася з Чырв. Арміяй. У 1965 у Драгічыне і Іванаве ў гонар брыгады ўстаноўлены мемар. дошкі.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ І. В. СТА́ЛІНА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Валожынскага, Дзяржынскага, Івянецкага, Мінскага, Стаўбцоўскага р-наў.

Створана ў ліст. 1942 на базе атрада 125-га імя Сталіна, арганізаванага ў крас. 1942 у Дзяржынскім р-не. Камандзір брыгады П. І. *Гулевіч*, камісар А. Г. *Мурашоў*, нач. штаба І. К. Карпаў. Пры фарміраванні брыгады з асабовага складу атрада 125-га імя Сталіна створаны атрады «Бальшавік», імя Дзяржынскага і імя Суворава. У снеж. ў брыгаду ўключаны асобна дзейныя атрады імя Чапаева і імя Будзённага. Пазней у брыгадзе сфармі-

раваны атрады імя Пархоменкі, імя Панамарэнкі і інш. У кастр. 1943 на базе атрада імя Дзяржынскага створана *партызанская брыгада імя Ф. Э. Дзяржынскага*, у снеж. 1943 на базе атрадаў імя Чапаева і імя Пархоменкі — *партызанская брыгада імя В. І. Чапаева*, на базе атрадаў імя Будзённага і імя Панамарэнкі — *партызанская брыгада імя П. К. Панамарэнкі*.

Партызаны брыгады разам з інш. брыгадамі і атрадамі ў 1942 і ў пач. 1943 грамілі апорныя пункты, гарнізоны і паліцэйскія ўчасткі, ачышчалі ад ворага Івянецкую зону (гл. *Комалаўскі бой 1942*, *Налібоцкія баі 1942, 1943*). У ліп.— жн. 1943 правялі 17 баёў супраць карных экспедыцый і за выхад з блакады. Толькі ў чэрв. 1944 зрабілі 24 дыверсіі, пусцілі пад адхон 6 эшалонаў, падарвалі 3 масты, 14 аўтамашын. У ноч на 20.6.1944 на ўчастку Коласава — Негарэлае падарвалі каля 600 рэек, пашкодзілі 500 м тэлефонна-тэлеграфнай лініі.

5.7.1944 брыгада [1160 партызан; атрады «Бальшавік», імя Суворава, імя Рыжака (камандзір 125-га атрада імя Сталіна С. А. Рыжак загінуў у баі), імя Кірава, імя Сталіна] злучылася з Чырв. Арміяй.



Варожы самалёт, збіты партызанамі брыгады імя І. В. Сталіна. Налібоцкая пушча.



Група партызан брыгады імя К. К. Ракасоўскага.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА І́МЯ І. В. СТА́ЛІНА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Жабінкаўскага, Кобрынскага, Брэсцкага, Дзівінскага, Маларыцкага р-наў.

Створана ў ліп. 1943 на базе атрадаў імя М. М. Чарнака (арганізаваны ў чэрв. 1941) і імя Варашылава. У крас.— маі 1944 у саставе брыгады дзейнічаў атрад М. І. Каліева, які быў уліты ў атрад М. М. Чарнака. Атрады імя Варашылава і імя Жукава, якія дзейнічалі ў складзе брыгады, у крас. 1944 перададзены для фарміравання *партызанскай брыгады імя У. І. Леніна*. Камандзіры брыгады Л. П. Зяленін (загінуў), С. Х. *Арзуманян*; камісар К. А. Шкаварада; нач. штаба С. М. Кіцьян.

Партызаны ў маі 1942 разграмілі варожы гарнізон у в. Велікарыта, захапілі турму і вызвалілі зняволеных сав. грамадзян. У жн. знішчылі 25 маёнткаў. У 1943 удзельнічалі ў разгроме варожых апорных пунктаў у Шацку (Валынская вобл.), райцэнтры Дамачова, наносілі ўдары па чыг. участках Брэст — Ковель, Брэст — Уладава. У кастр.— ліст. разбілі чыг. ст. Дамачова. У студз. 1944 зрабілі больш за 80 дыверсій на чыг. і шашэйных дарогах, падарвалі шмат эшалонаў, мастоў, аўтамашын. Пасля выхаду ў сав. тыл брыгада ўключана ў 160-ю стралк. дывізію, трымала абарону ў Любяшоўскім (Валынская вобл.) і Дзівінскім р-нах, прыкрывала пераправу цераз Прыпяць і правы фланг дывізіі каля в. Радастава.

22.3.1944 брыгада [1063 партызаны; атрады імя Чарнака (да чэрв. 1943 атрад Старасельскі, потым нададзена імя нам. камандзіра атрада па разведцы М. М. Чарнака, які загінуў у баі), імя Фрунзе] паатрадна выйшла ў сав. тыл. Атрады імя Чарнака і імя Фрунзе пасля выхаду ў сав. тыл (сак. 1944) рэарганізаваны і ў маі зноў накіраваны ў тыл ворага. Другі раз злучыліся з Чырв. Арміяй 21.7.1944.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА І́МЯ А. В. СУВО́РАВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Навамышскага, Гарадзішчанскага р-наў.

Створана ў сак. 1944 на базе атрада імя Суворава (арганізаваны ў маі 1942, да мая 1943 атрад «Стралкова»), вылучанага з партыз. брыгады Першамайскай. Камандзіры І. С. Кірын, В. Н. Галоўчанка; камісар Р. Л. Марахоўскі; нач. штаба В. Я. Шахроў.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыг., шашэйных і грунтавых дарогах, вялі баі па ліквідацыі варожых апорных пунктаў, супраць карнікаў. У сак.— крас. 1944 падарвалі 4 эшалоны, разбурылі 11 мастоў, знішчылі маёнтак каля в. Гарадзішча, правялі 4 баі, у ліп. правялі 9 баёў з разрозненымі групамі праціўніка, захапілі больш за 70 вінтовак, 4 кулямёты, 9 аўтамашын, боепрыпасы. 6.7.1944 брыгада (456 партызан; атрады імя Суворава, імя Кутузава, «Мсцівец») злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА І́МЯ М. В. ФРУ́НЗЕ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Радашковіцкага, Ільянскага і Лагойскага р-наў.

Створана ў студз. 1943 на базе атрадаў «За Радзіму» (арганізаваны ў ліп. 1942), імя Варашылава (арганізаваны ў жн. 1942), «Камсамолец» (арганізаваны ў вер. 1942). Камандзіры М. М. Багатыроў, А. М. Захараў (загінуў), Э. Л. *Смаленскі*; камісары І. І. *Міроненка*, П. М. Шалкоўскі, М. В. Чарапанаў; нач. штаба А. Д. Коўбій. Атрад «Камсамолец» у маі 1943 перададзены разведгрупе капітана М. М. Багатырова.

Партызаны ўдзельнічалі ў «рэйкавай вайне», нападалі на варожыя гарнізоны ў в. Раманаўка, Паперня, Хаценчыцы (гл. *Хаценчыцкі бой 1943*), Ілья, Раёўка, Вязынь. У студз. 1944 падарвалі электрастанцыю ў Маладзечне, 7 разоў перараЗалі падземны тэлеф. кабель, які звязваў ням. фронт з Берлінам. 4 разы карнікі блакіравалі брыгаду, але кожны раз пасля жорсткіх баёў яна выходзіла з акружэння. У канцы чэрв. 1944 партызаны вызвалілі в. Ілья, Раёўка, Вязынь і ўтрымлівалі іх да падыходу Чырв. Арміі.

1.7.1944 брыгада (844 партызаны; атрады «За Радзіму», імя Варашылава, «За Савецкую Беларусь», «Чырвоны сцяг») злучылася з Чырв. Арміяй. У 1965 у в. Навасёлкі Вілейскага р-на, у 1975 у в. Раёўка Маладзечанскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнікі.



Нямецкія антыфашысты Карл Рынагель (злева) і Герберт Генчке (справа) у падпольнай друкарні брыгады імя І. В. Сталіна. У цэнтры — радыст У. Губін.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА І́МЯ ЦК КП(б)Б.** Дзейнічала на акупіраванай

тэр. Пліскага, Докшыцкага, Глыбоцкага, Астравецкага, Ушацкага р-наў.

Створана ў сак. 1943, спачатку дзейнічала як 1-ы батальён, арганізаваны ў кастр. 1942 з атрада імя Пархоменкі, які вылучаны брыгадай «За Савецкую Беларусь» (пазней імя Ракасоўскага), і асобных груп П. Ф. *Рудава*, М. З. Умінскага А. І. *Шаўчэнкі*, якія прыбылі ў тыл ворага па заданню ЦК КП(б)Б. У чэрв. 1943 перайменаваны ў брыгаду. Камандзіры А. Д. *Мядзведзеў*, М. Р. *Пучкароў* (в. а.), М. І. Фёдараў; камісары Ц. М. Бондараў, Ф. Я. Воранаў, Пучкароў, У. П. Шчуцкі; нач. штаба І. А. Цяста.

Партызаны брыгады разам з інш. партыз. брыгадамі Вілейскай вобл. былі зах. заслонам *Полацка-Лепельскай партызанскай зоны*. У кастр.— снеж. 1942 разграмілі валасную ўправу і падарвалі маслазавод у в. Язна, на чыг. і шашэйных дарогах спалілі і падарвалі 32 масты, знішчылі каля 7 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі. У маі 1943 разграмілі гарнізон у Докшыцах. Толькі 3.8.1943 на чыг. участку Полацк — Маладзечна ўзарвалі больш за 250 рэек (рух спынілі на 7 сутак); у ноч на 20.6.1944 на чыг. участку Вільнюс — Смаргонь падарвалі 300 рэек. У маі і вер. 1943, крас. 1944 вялі баі супраць карнікаў, прарывалі блакаду і не спынялі баявых дзеянняў. Вял. баі вялі каля в. Тумілавічы, Несцераўшчына, Дздзіна.

6.7.1944 брыгада (338 партызан; атрады імя Пархоменкі, 2-і імя Чкалава, 3-і імя Жукава, 4-ы імя Фурманава, 5-ы імя Дзяніcава) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1968 у г. п. Астравец у гонар брыгады ўстаноўлена мемар. дошка, у 1967 у в. Горнава 2-е Докшыцкага р-на — мемарыяльная дошка, у 1969 каля вёскі пастаўлена стэла.



Група партызан 1-га атрада імя А. Я. Пархоменкі брыгады імя ЦК КП(б)Б.



Камандзір брыгады імя В. І. Чапаева Х. А. Матэвасьян (у цэнтры) з партызанамі.



У зброевай майстэрні партызанскай брыгады імя В. І. Чапаева.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ В. І. ЧАПА́ЕВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Буда-Кашалёўскага, Жлобінскага, Стрэшынскага, Рэчыцкага, Парыцкага і Васілевіцкага р-наў.

Створана ў вер. 1943 на базе атрадаў імя Чапаева (арганізаваны ў ліст. 1942) і імя Фурманава (арганізаваны ў сак. 1943). Камандзір брыгады М. Дз. Сцефановіч, камісар С. І. *Касьянаў*, нач. штаба І. Ю. Даўгала.

Партызаны наносілі ўдары на чыг. участках Гомель — Жлобін, Гомель — Калінкавічы і прылеглых да іх шашэйных і грунтавых дарогах. У ліп.— вер. 1943 разбілі 9 варожых апорных пунктаў, знішчылі 24 аўтамашыны, падарвалі 9 мастоў, пусцілі пад адхон 17 эшалонаў. Толькі ў жн.— кастр. 1943 падарвалі каля 1,1 тыс. рэек. У лютым, маі, чэрв.— кастр. 1943 вялі баі з карнікамі.

23.11.1943 брыгада (817 партызан; атрады імя Чапаева, імя Фурманава, імя Гастэлы, імя Лазо) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ В. І. ЧАПА́ЕВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Антопальскага і Кобрынскага р-наў.

Створана ў студз. 1944 на базе атрада імя Чапаева (арганізаваны ў крас. 1942 на базе груп, якія дзейнічалі з ліп. 1941). Камандзіры К. С. Гапасюк, Ф. М. Баранаў; камісары М. П. *Леановіч*, М. С. Карпічэнка; нач. штаба І. П. Курапаў, В. В. Сцёпкін.

У 1943 атрад імя Чапаева знішчыў 7 варожых апорных пунктаў, 11 маёнткаў. Партызаны брыгады ў лютым—маі 1944 правялі 32 дыверсіі на чыг. участку Кобрын — Івацэвічы, знішчылі 22 варожыя аўтамашыны, 7 мастоў на шашэйных дарогах, у чэрв. падарвалі 940 рэек, вялі баі з ворагам, які спрабаваў уварвацца ў зону дыслакацыі брыгады.

19.7.1944 брыгада (886 партызан; атрады імя Чапаева, імя Арлова (камандзір атрада імя Чапаева І. І. Арлоў загінуў у баі), імя Паставалава (камандзір атрада імя Чапаева І. П. Паставалаў загінуў у баі), імя Малянкова) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ В. І. ЧАПА́ЕВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Валожынскага, Навагрудскага і Лідскага р-наў.

Створана ў снеж. 1943 на базе атрадаў імя Чапаева (арганізаваны ў чэрв. 1942) і імя Пархоменкі (арганізаваны ў маі 1943), вылучаных *партызанскай брыгадай імя І. В. Сталіна*. Камандзір Р. Л. *Кудрын*, камісар П. А. *Склемін*, нач. штаба А. В. Сауцін.

Партызаны самастойна і разам з брыгадай імя Кірава гpамілі гарнізоны і апорныя пункты ворага на тэр. Лідскага і Навагрудскага р-наў, вялі баі супраць карнікаў, у т. л. каля в. Каменка (31.3.1944), Такарышкі (19.5.1944). У сак. 1944 каля чыг. ст. Лістапады падарвалі каля 30 рэек, пусцілі пад адхон 2 эшалоны, на пад'язных пуцях знішчылі 3 масты. У крас. на дарозе Валожын — Вішнева падарвалі 2 машыны з жывой сілай праціўніка, на шашы Навагрудак — Ліда падбілі танк. У чэрв. на чыг. участку Ліда — Маладзечна падарвалі 350 рэек, у выніку спынілі рух на чыгунцы на 2 сутак.

6.7.1944 брыгада (464 партызаны; атрады імя Чапаева, імя Пархоменкі, імя Фурманава, імя Лазо) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1965 у Лідзе ў гонар брыгады пастаўлена стэла, у 1969 у в. Бакшты Іўеўскага р-на — абеліск, у 1980 у в. Ляхавічы 1-я Навагрудскага р-на — стэла.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ В. І. ЧАПА́ЕВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Рудзенскага, Пухавіцкага, Пoff разаўскага, Ружанскага, Ваўкавыскага, Свіслацкага, Заблудаўскага р-наў.

Створана 29.6.1943 на базе атрада імя Чапаева *партызанскай брыгады 2-й Мінскай,* арганізаванага ў маі 1942 у Рудзенскім р-не. У жн. 1943 брыгада перададзена Беластоцкаму партыз. злучэнню. Камандзір брыгады Х. А. *Матэвасьян*; камісары А. І. *Мурашка*, А. Г. Шламанаў; нач. штаба Ф. І. Цвяткоў.

Партызаны вялі баі па разгрому гарнізонаў праціўніка, у т. л. ў в. Шацк Рудзенскага (28.11 і 13.12.1942), Дражна Старадарожскага (14.4.1943) р-наў, супраць карнікаў у лясах Поразаўскага р-на. На чыг. участках Мінск — Рудзенск, Брэст — Баранавічы, Лунінец — Баранавічы падарвалі шмат рэек, эшалонаў, на шашы і чыгунцы спалілі больш за 60 мастоў, знішчылі каля 60 аўтамашын, 2 прадпрыемствы. Разам з Чырв. Арміяй вызвалялі в. Новы Двор, вялі баі з варожымі часцямі на дарозе Новы Двор — Пружаны.

13.7.1944 брыгада (663 партызаны; атрады імя Жукава, імя Ворашава, «За Радзіму», імя 26-годдзя РСЧА, імя Жданава) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ В. І. ЧАПА́ЕВА.** Да восені 1943 наз. брыгада «Смерць фашызму». Дзейнічала на акупіраванай тэр. Ушацкага, Ветрынскага, Бешанковіцкага, Полацкага, Сіроцінскага і Лепельскага р-наў.

Створана ў чэрв. 1942 на базе асобнага атрада «Смерць фашызму» (арганізаваны ў маі 1942). У жн. 1942 з брыгады вылучаны 9-ы атрад (гл. *Партызанская брыгада Чашніцкая «Дубава»*). У ліп. 1943 атрады імя Чапаева, імя Кірава, імя Свярдлова, імя Грызадубавай, імя Даватара вылучаны з брыгады, і на іх базе створана *партызанская брыгада 2-я Ушацкая імя П. К. Панамарэнкі.* У жн. 1943 у Вілейскую вобл. вылучаны атрад пад камандаваннем К. З. Карабкова (пазней атрад 2-і *партызанскай брыгады імя М. І. Калініна*). У крас. 1944 атрад імя Жалезняка расфарміраваны. Дзеянні атрада імя Матросава з сак. 1944 не прасочваюцца. Камандзір брыгады У. В. *Мельнікаў;* камісары М. І. Ястрабаў, І. Ф. *Каранеўскі* (загінуў); нач. штаба М. В. *Уткін*, М. М. Пучкоў, В. М. Нікалаеў (в. а., загінуў).

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунках Полацк — Маладзечна, Полацк — Віцебск і шашэйных дарогах. У жн.— вер. 1942 разграмілі варожы гарнізон у в. Варонічы Ветрынскага р-на, знішчылі льнозавод, падарвалі масты цераз р. Ушача, Шоша; у ліп. 1943 разграмілі гарнізон у в. Фролкавічы, падарвалі мост цераз р. Ула. Удзельнічалі ў *Пышнянскіх баях 1943,* у *Лепельскай аперацыі 1943* і яе састаўной частцы — *Лепельскім баі 1943.* На чыг. участку Полацк — Зябкі падарвалі больш за 3 тыс. рэек. У ліст. 1942 і маі 1943 вялі баі супраць карнікаў каля в. Заскаркі, Далецкія, Шчаты, Заазер'е Ветрынскага р-на, разграмілі гарнізоны ў в. Шалкова, Шэлегаўка (май 1943, гл. *Шалкова-Шэлегаўскі бой 1943*) Полацкага р-на, у кастр. 1943 напалі на гарнізон у Ушачах. У крас.— мае 1944, у час блакады ворагам Полацка-Лепельскай партыз. зоны, вялі баі за ўтрыманне лініі абароны каля воз. Краснае, в. Канашы, Гаравыя, Саламір'е, Зыкова, Старынкі Ветрынскага р-на. У маі 1944 прарвалі варожую абарону ў раёне в. Паперына — Двор Пліна — Новае Сяло Ушацкага р-на (гл. *Полацка-Лепельская бітва 1944*).

29.6 і 1.7.1944 брыгада (1295 партызан; атрады імя Фрунзе, імя Суворава, імя Лазо, імя Шчорса, імя Аляксандра Неўскага, імя Сільніцкага, імя Кутузава, імя Катоўскага, імя Чкалава, імя Багдана Хмяльніцкага) злучылася з Чырв. Арміяй. Брыгада ўвекавечана ў мемар. комплексе *«Прарыў»* у ліку 16 партыз. брыгад. У 1964 у г. п. Ушачы ў гонар брыгады ўстаноўлена мемар. дошка, у 1974 каля в. Антунова Ушацкага р-на пастаўлена стэла.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ В. П. ЧКА́ЛАВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Заслаўскага, Дзяржынскага, Мінскага, Івянецкага, Валожынскага р-наў.

Створана ў ліст. 1942 на базе атрадаў 620-га (імя Кузняцова, арганізаваны ў чэрв. 1942 у выніку аб'яднання атрадаў Я. З. Дука і І. П. Кузняцова) і 621-га (імя Чкалава). Пазней арганізаваны атрады імя Кірава, імя Андрэева і інш. Камандзіры С. П. Смірноў, М. І. Грыбанаў; камісар І. П. *Казак*; нач. штаба Грыбанаў, Р. М. Панявін, І. П. Анішчанка. Атрад імя Чкалава ўвайшоў пасля ў *партызанскую брыгаду «Уперад»*, атрады імя Кірава, імя Андрэева, «За Савецкую Беларусь» перададзены для фарміравання *партызанскай брыгады «За Савецкую Беларусь»*, атрад П. А. Алыбіна вызначаны ў асобна дзейны.



Камандзір брыгады імя В. П. Чкалава М. І. Грыбанаў знаёміць партызан з аўтаматам ППС. 1943.



Партызаны брыгады імя В. І. Чапаева ў абароне.



У шавецкай майстэрні партызанскага атрада «За Савецкую Радзіму» брыгады імя В. П. Чкалава.



Сяляне дапамагаюць партызанам брыгады імя В. І. Чапаева капаць акопы. Віцебская вобл.

Партызаны ў 1942 разграмілі 11 апорных пунктаў праціўніка і 20 маёнткаў, захапілі 4 тыс. т збожжа, 1 тыс. т раздалі насельніцтву. У крас.— снеж. 1943 падарвалі каля 50 эшалонаў, знішчылі 3 масты (рух на чыг. спынены амаль на 9 сутак). У маі знішчылі 6 аўтамашын. У ліп. зрабілі 10 дыверсій на чыгунцы, правялі 10 баёў, захапілі 8 кулямётаў, больш за 20 вінтовак, боепрыпасы. 20.6.1944 на чыг. участках Ратамка — Крыжоўка, Маладзечна — Уша падарвалі каля 900 рэек. У ліп. 1944 знішчылі 24 аўтамашыны, захапілі 9 кулямётаў, 19 аўтаматаў, 141 вінтоўку, вызвалілі 113 сав. грамадзян, якіх гітлераўцы вывозілі на катаржныя работы ў Германію.

5.7.1944 брыгада [1085 партызан; атрады імя Кузняцова (камандзір атрада I. П. Кузняцоў загінуў у баі), «За Савецкую Радзіму», імя Панамарэнкі, «26 гадоў Кастрычніка», імя Малянкова] злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ ЧЫРВАНАСЦЯ́ЖНАГА ЛЕ́НІНСКАГА КАМСАМО́ЛА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Суражскага, Гарадоцкага і Мехаўскага р-наў.

Створана ў ліст. 1942 на базе атрада Д. Ф. Райцава, вылучанага з *партызанскай брыгады 1-й Беларускай*, і прысланых з сав. тылу атрадаў імя Лазо і «Сібірак». У лютым 1943 атрады імя Лазо, «Сібірак», у вер. 1943 2-і і 4-ы вылучаны з брыгады і перадыслацыраваны ва Ушацкі і Чашніцкі р-ны, пазней ўвайшлі ў *партызанскую брыгаду імя ВЛКСМ*. Камандзір Д. Ф. *Райцаў;* камісары В. К. *Перуноў*, I. I. Карнавухаў (в. а.), А. Я. Федарэнка (в. а.), В. С. Цыганкоў; нач. штаба Карнавухаў, Р. Н. Мельнянцоў (в. а.), М. Я. Паддубны, Федарэнка.

Атрад Д. Ф. Райцава ўдзельнічаў у стварэнні і абароне Суражскай партыз. зоны (гл. *Курынскі бой 1942* і інш.). Партызаны брыгады рабілі дыверсіі на чыгунцы і шашы Віцебск — Гарадок. У жн. 1943 падарвалі 120 рэек. Вялі баі супраць карных аперацый (люты — сак. 1943, чэрв. 1943).

1.11.1943 (атрады 1-ы, 3-і, штаб брыгады) і 3.12.1943 (атрад 7-ы) брыгада (363 партызаны) злучылася з Чырв. Арміяй. Партызану М. Ф. Сільніцкаму прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1972 каля в. Хамякова Віцебскага р-на ў гонар брыгады пастаўлена стэла, у 1975 у в. Кабішча Гарадоцкага р-на — стэла.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ М. А. ШЧО́РСА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Барысаўскага, Чэрвеньскага, Бярэзінскага р-наў.

Створана ў кастр. 1942 на базе асобных атрадаў «Бальшавік» (арганізаваны ў крас. 1942 на базе падп. груп, якія дзейнічалі з 1941) і «Перамога». Пазней у брыгаду ўвайшлі атрады «Камуніст» (створаны ў маі 1942), імя Варашылава (створаны ў ліп. 1942), імя Чапаева, імя Кірава (расфарміраваны ў студз. 1944, асабовы састаў увайшоў у атрад імя Чапаева), імя Шчорса. Камандзіры М. Л. *Дзербан*, В. К. Дзяруга; камісар М. П. *Прусак;* нач. штаба В. П. Драздоўскі, А. З. Гаўрусёў, В. І. Бардзін.

Баявыя аперацыі партызаны праводзілі на чыгунках і шашэйных дарогах Мінск — Крупкі, Мінск — Пухавічы, Мінск — Магілёў. У лютым — крас. 1944 падарвалі 36 варожых эшалонаў, знішчылі 9 аўтамашын, разбурылі каля 5 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі. У маі 1944 разграмілі гарнізон у в. Забашавічы Барысаўскага р-на. 20.6.1944 на ўчастках Мінск — Смалявічы, Прыяміна — Крупкі падарвалі больш за 950 рэек.

2.7.1944 брыгада (1885 партызан; атрады «Бальшавік», «Камуніст», «Перамога», імя Варашылава, імя Чапаева, імя Шчорса) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1975 у в. Раванічы Чэрвеньскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнік.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ М. А. ШЧО́РСА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Заслаўскага, Мінскага, Дзяржынскага, Івянецкага, Радашковіцкага р-наў.

Створана ў ліст. 1943 на базе атрада імя Шчорса, арганізаванага ў маі 1943. Камандзір С. С. *Ключнік*, камісар I. Б. *Леванкоў*, нач. штаба А. С. Шрубко.

Толькі ў лютым — ліп. 1944 партызаны падарвалі 23 эшалоны, разбурылі каля 150 м чыг. палатна. Правялі больш за 60 баёў, знішчылі каля 100 аўтамашын ворага.

4.7.1944 брыгада (1120 партызан; атрады імя Шчорса, «Перамога», імя Мікаяна, імя Калініна, імя Чапаева кавалерыйскі, імя Ракасоўскага, імя Шчарбакова, імя Кастуся Каліноўскага) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1966 у в. Траскоўшчына Мінскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены абеліск.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ІМЯ́ М. А. ШЧО́РСА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Уваравіцкага, Буда-Кашалёўскага, Жлобінскага, Рэчыцкага р-наў.

Створана ў вер. 1943 на базе атрада імя Шчорса (створаны на аснове ініцыятыўнай групы А. П. Байкова, накіраванай у жн. 1942 у варожы тыл). Камандзір брыгады А. П. Байкоў, камісар В. В. *Юдзін*, нач. штаба Р. А. Кавалёў.



Партызанскі млын з конным прыводам у атрадзе «За Савецкую Радзіму» брыгады імя В. П. Чкалава.



Група партызан атрада «За Савецкую Радзіму» брыгады імя В. П. Чкалава.

У маі — жн. 1943 партызаны правялі больш за 20 дыверсій на чыг. участках Гомель — Калінкавічы, Гомель — Жлобін. У жн. і вер. 1943 падарвалі больш за 310 рэек, 5 мастоў. Вясной і летам 1943 разграмілі 7 паліцэйскіх участкаў, 2 валасныя ўправы, больш за 20 складоў, 16 прадпрыемстваў, якія забяспечвалі патрэбы ворага.

23.11.1943 брыгада (905 партызан; атрады імя Шчорса, «За Савецкую Беларусь», імя Гастэлы) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1968 каля в. Смычок Буда-Кашалёўскага р-на ў гонар брыгады пастаўлена стэла.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «КАМСАМО́ЛЕЦ».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Мірскага, Стаўбцоўскага, Карэліцкага р-наў.

Створана ў снеж. 1943 на базе атрадаў, вылучаных *партызанскай брыгадай імя Г. К. Жукава*. Камандзіры брыгады І. К. Кузняцоў, Р. М. Панявін; камісар А. І. Дзееў; нач. штаба М. Ц. Маскалёў.

У студз. 1944 на чыг. участках Баранавічы — Ліда і Ліда — Маладзечна падарвалі 5 эшалонаў з ваен. грузамі, каля в. Агароднікі знішчылі мост. Толькі ў крас. 1944 зрабілі 11 дыверсій. У Мірскім р-не пашкодзілі 12,5 км тэлеграфна-тэлефоннай лініі. У сак. правялі некалькі баёў, разграмілі гарнізон у в. Загор'е Мірскага р-на і захапілі 40 вінтовак, разам з партыз. брыгадай імя Жукава разбілі варожы гарнізон у г. п. Мір (гл. *Мірскі бой 1944*).

10.7.1944 брыгада (588 партызан; атрады 1-ы камсамольскі, імя Калініна, 2-і камсамольскі, «Сокал») злучылася з Чырв. Арміяй. У 1979 у в. Ярэмічы Карэліцкага р-на ў гонар брыгады пастаўлена стэла.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «КАСТРЫ́ЧНІК».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Пліскага, Міёрскага, Дзісенскага, Шаркоўшчынскага, Глыбоцкага р-наў.

Створана ў вер. 1943 на базе атрада «Кастрычнік», арганізаванага ў вер. 1942 у Усвяцкім р-не Смаленскай вобл. і накіраванага ў Вілейскую вобл. Камандзіры брыгады Ф. К. *Юрчанка*, І. І. *Юкша* (в. а.); камісар Юкша; нач. штаба Г. Т. Цяльноў (загінуў).

Партызаны праводзілі баявыя дзеянні на чыг. і шашэйных дарогах. Летам 1943 вялі засадныя баі на Зах. Дзвіне. Каля в. Крукі разбілі варожы абоз з боепрыпасамі, у вер. вялі баі з карнікамі ў Міёрскім р-не. Зімой 1943—44 і вясной 1944 нападалі на варожыя гарнізоны ў в. Бараўцы, Галубічы, Шыпы. У аперацыі «рэйкавая вайна» толькі на чыг. участку Крулеўшчына — Падсвілле падарвалі 730 рэек. На шашы Дзісна — Лужкі спалілі 12 мастоў. У лютым — сак. 1944 з партызанамі Ушацкай зоны ўдзельнічалі ў разбурэнні палатна на чыг. участку Полацк — Маладзечна, у крас. вялі баі па прарыву блакады. У крас. — маі 1944 удзельнічалі ў баях супраць карнікаў у Полацка-Лепельскай зоне.

2—4.7.1944 брыгада (256 партызан, атрады 1-ы, 2-і, 3-і, 4-ы імя Горкага) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА А. М. КРЫЎСКАГА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Полацкага р-на і ў Латвійскай ССР. Створана ў кастр. 1943 з часткі асабовага складу *партызанскай брыгады «Няўлоўныя»*. Камандзір А. М. Крыўскі, камісар М. І. Панамароў, нач. штаба А. С. Меркуль. 3.1.1944 брыгада (146 партызан; атрады 1-ы, 2-і, 3-і) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ЛАГО́ЙСКАЯ «БАЛЬШАВІ́К».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Лагойскага р-на.

Створана ў лютым 1944 на базе атрадаў «Бальшавік» № 1 (пазней «Бальшавік»), «Бальшавік» № 2 (пазней імя Будзённага), «Бальшавік» № 3 (пазней «Спартак»). Камандзір Л. Л. Марозаў, камісар М. М. Андрэеў, нач. штаба В. М. Мягчылаў.

Баявыя дзеянні партызаны праводзілі на чыгунцы Мінск — Маладзечна, шашы Лагойск — Мінск. У «рэйкавай вайне» разбурылі каля 2 км чыг. палатна. У маі 1943 разграмілі ням. санаторый у Астрашыцкім Га-



Конныя разведчыкі партызанскай брыгады «Кастрычнік» на маршы.



Партызаны брыгады імя В. П. Чкалава вядуць палонных гітлераўцаў.



Партызаны брыгады імя Чырванасцяжнага Ленінскага камсамола ўступаюць у г. п. Лёзна. 1943.

радку, у чэрв., вер. 1943 — гарнізоны ў в. Косіна, Лагаза. У час наступлення Чырв. Арміі будавалі пераправы і масты цераз р. Гайна і Усяжа, знішчалі асобныя варожыя групы.

30.6.1944 брыгада (547 партызан; атрады «Бальшавік», імя Будзённага, «Спартак») злучылася з Чырв. Арміяй. У 1971 у в. Янушкавічы Лагойскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнік.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ЛЕ́ЛЬЧЫЦКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Лельчыцкага р-на.

Створана ў вер. 1943 на базе асобных атрадаў імя Кутузава (арганізаваны ў ліст. 1942, да чэрв. 1943 Лельчыцкі), імя Калініна (арганізаваны ў маі 1943), імя Суворава (арганізаваны ў чэрв. 1943). Камандзір К. М. Дамбоўскі, камісар Р. Л. *Лін*, нач. штаба П. Р. Ганчароў.

Партызаны вясной 1943 правялі аперацыі па знішчэнню варожых суднаў на Прыпяці, летам з атрадамі брыгады Мазырскай імя Аляксандра Неўскага і атрадамі ўкр. партызан разграмілі гарнізон у в. Скрыгалаў Мазырскага р-на. У ліп.— жн. 1943 вялі баі з карнікамі, знішчылі 35 аўтамашын з жывой сілай ворага. У жн. 1943 удзельнічалі ў аперацыі «рэйкавая вайна» на чыг. участку Ельск — Багуцічы — Славечна. Зімой 1944 разам з часцямі Чырв. Арміі вызвалілі в. Астражанка, Замошша, Сіманічы, пабудавалі мост цераз р. Убарць.

15.1.1944 брыгада (661 партызан; атрады імя Кутузава, імя Калініна, імя Суворава, імя Сталіна, імя Варашылава, Сіманіцкі) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1980 у в. Маркоўскае Лельчыцкага р-на ў гонар брыгады ўстаноўлены мемар. знак.



Сцяг Лагойскай партызанскай брыгады «Бальшавік».


Артылерыйскі разлік Лепельскай партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна вядзе агонь па ворагу.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ЛЕ́НІНСКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Дзятлаўскага Зэльвенскага, Мастоўскага, Жалудоцкага, Казлоўшчынскага, Васілішкаўскага, Шчучынскага р-наў.

Створана ў снежні 1942 на базе атрадаў «Перамога», імя Варашылава, «Барацьба» (арганізаваны ў маі 1942). Атрады 54-ы і імя Калініна перададзены для фарміравання *партызанскай брыгадзе імя К. Я. Варашылава*. У чэрв. 1943 на базе атрадаў імя Варашылава, «Іскра», «Кастрычніцкі» і «Балтыец» створана *партызанская брыгада «Перамога»*. Камандзіры брыгады Ленінскай Ф. М. *Сінічкін*, Б. А. *Булат*, Г. А. *Шубін*; камісар Р. В. *Макараў*; нач. штаба Булат, М. М. Пацалуеў, Шубін.

Партызаны разам з інш. брыгадамі і атрадамі разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Дзярэчын Зэльвенскага, Руда Яварская (гл. *Руда-Яварскія бai 1942, 1944*), Казлоўшчына Казлоўшчынскага, Некрашы Дзятлаўскага р-наў. Вялі баі ў снеж. 1942 супраць карнікаў на р. Шчара, у сак. 1943 у час выхаду з акружэння ў Дубароўскіх лясах і ў чэрв. 1944— абарончыя баі разам з брыгадамі «Перамога» і імя Варашылава. На чыг. участках Баранавічы — Ліда, Ліда — Ваўкавыск, Баранавічы — Ваўкавыск толькі ў жн. 1943 падарвалі ці пашкодзілі больш за 9 эшалонаў, 5 чыг. мастоў, у аперацыі «рэйкавая вайна» — больш за 450 рэек, папсавалі 5,5 км тэлеграфна-тэлефоннай лініі, падбілі танк, 4 аўтамашыны.

15.7.1944 брыгада (1184 партызаны; атрады «Барацьба», «Непераможны», «Чырвонагвардзейскі») злучылася з Чырв. Арміяй. Камандзірам брыгады Сінічкіну і Булату прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1967 каля в. Трахімавічы Дзятлаўскага р-на ў гонар атрада «Непераможны» пастаўлена стэла і ў 1967 каля в. Паўлава ва ўрочышчы Руда насыпаны курган Славы. У 1980 каля в. Шымкі Мастоўскага р-на ў гонар атрада «Чырвонагвардзейскі» пастаўлена стэла.


Вываз дзяцей на самалётах у савецкі тыл. Лепельская партызанская брыгада імя І. В. Сталіна.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ЛЕ́ПЕЛЬСКАЯ ІМЯ І. В. СТА́ЛІНА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Лепельскага і Ушацкага р-наў.

Сфарміравана 1.7.1943 у выніку разбуйнення *партызанскай брыгады Чашніцкай «Дубава»*. Камандзіры У. Е. *Лабанок*, Дз. Ц. Караленка (загінуў), А. В. *Ярмаш*; камісары Ярмаш, У. Л. *Качан*; нач. штаба Караленка, М. Е. Атрашкевіч.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыг. участках Лепель — Орша, Полацк — Маладзечна. У вер. 1943 падарвалі больш за 2 тыс. рэек. У ліп.— кастр. 1943 разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Катоўшчына, Парэчча, Студзёнка, Забаенне, вялі баі за в. Іван-Бор, у раёне в. Свяда — Слабодка Лепельскага р-на. У ноч на 20.10 і 22.10.1943 разам з брыгадай Чашніцкай «Дубава» ўдзельнічалі ў штурме варожага гарнізона ў Лепелі (гл. *Лепельская аперацыя 1943* і *Лепельскі бой 1943*), у снеж. вялі абарончыя баі каля в. Ліпнякі, Пуцілкавічы, Храмёнкі Лепельскага і Ушацкага р-наў, у сак. 1944 за в. Падлобныя, Заазер'е, Забалацце Лепельскага р-на. У крас.— маі вялі баі супраць карнай экспедыцыі ням.-фаш. войск у Полацка-Лепельскай партыз. зоне (гл. *Полацка-Лепельская бітва 1944*). У чэрв. 1944 разам з часцямі Чырв. Арміі ўдзельнічалі ў баі за в. Шасцярні Ушацкага, Вокана і Свядзіца Лепельскага р-наў.

29.6.1944 брыгада [1003 партызаны; атрады 1-ы (створаны ў сак. 1942), 2-і імя Дз. Ц. Караленкі, 3-і, 4-ы, 5-ы, 8-ы і 9-ы імя С. А. Пацея (камандзір атрада С. А. Пацей загінуў), 13-ы, дыверсійны атрад, арт. дывізіён, кав. эскадрон] злучылася з Чырв. Арміяй. Камандзіру брыгады Лабанку прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Брыгада ўвекавечана ў мемар. комплексе «Прарыў» у ліку 16 партыз. брыгад. У 1965 у в. Бароўка Лепельскага р-на, в. Старынка Ушацкага р-на пастаўлены стэлы.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ЛЁЗНЕНСКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Лёзненскага, Сенненскага, Чашніцкага, Бешанковіцкага, Багушэўскага, Лепельскага, Ільянскага, Крупскага і Халопеніцкага р-наў.

Створана ў маі 1943 на базе атрадаў «Граза» (потым 1-ы), імя Чапаева (потым 2-і імя І. П. Спірыдонава) і «Буравеснік» (потым 3-і), вылучаных з брыгады «Аляксея» (пазней *партызанская брыгада імя А. Ф. Данукалава*). 14-ы атрад у чэрв. 1944 расфарміраваны. Камандзір брыгады П. І. *Кірылаў;* камісары А. Ц. *Шчарбакоў*, Ц. П. *Шакінка*, М. В. Комлеў (в. а.), К. М. Кірылаў (загінуў); нач. штаба І. Дз. Крупін.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунцы Віцебск — Смаленск, шашэйных і грунтавых дарогах. У «рэйкавай вайне» на чыгунцы Віцебск — Орша падарвалі каля 400 рэек. У кастр. 1943 удзельнічалі ў штурме варожага гарнізона ў г. п. Чашнікі

(гл. *Чашніцкі бой 1943*), удзельнічалі ў *Лепельскай аперацыі 1943*. Разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Смалянцы (кастр. 1943) Чашніцкага, Багданава (люты 1944) Сенненскага, Чэрцы і Шубнікі (сак. 1944) Лепельскага р-наў. У маі 1944 брыгада зрабіла баявы марш у Вілейскую вобл., у маі — чэрв. ў Ільянскім р-не вяла баі з карнікамі.

28.6.1944 брыгада [604 партызаны; 4 батальёны, атрады 1-ы, 8-ы, 9-ы, 13-ы, 3-і, 4-ы, 10-ы, 5-ы, 6-ы, 7-ы, 2-і імя Спірыдонава (камандзір атрада І. П. Спірыдонаў загінуў), 11-ы, 12-ы] злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ЛО́ЕЎСКАЯ «ЗА РАДЗІ́МУ».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Лоеўскага, Рэчыцкага, Васілевіцкага, Хойніцкага, Брагінскага р-наў.

Створана ў ліп. 1943 на базе атрада Лоеўскага «За Радзіму» (створаны ў жн. 1941). Камандзір брыгады Р. І. *Сіняко́ў*, камісар С. А. Гардзееў, нач. штаба В. Н. Камандзін.

Партызаны наносілі ўдары па ворагу на чыг. участках Гомель — Бахмач, Гомель — Калінкавічы, Гомель — Чарнігаў, на шашэйных і

Мазырскага, Петрыкаўскага, Ельскага р-наў.

Створана 28.9.1943 на базе 2 партыз. атрадаў, якія дзейпічалі ў Мазырскім р-не (арганізаваны ў лют. і чэрв. 1943). Камандзір А. Л. Жыльскі; камісары М. К. *Ільінкоўскі*, М. С. Кірушкін; нач. штаба М. А. Забораў.

Партызаны 30.8.1943 разграмілі варожы гарнізон у в. Шчакатава Мазырскага р-на (гл. *Нараўлянска-Шчакатоўская аперацыя 1943*), 3.10. 1943 знішчылі асабовы склад хойніцкага і брагінскага гарнізонаў у час іх перадыслакацыі ў г. Петрыкаў. У ноч на 19.9.1943 на перагоне Ельск — Мытва падарвалі 560 рэек. З часцямі Чырв. Арміі ў студз. 1944 удзельнічалі ў вызваленні г. Мазыра і в. Козенкі, Драздьі, Бабры, Скрыгалаў.

8.1.1944 брыгада (500 партызан; атрады 1-ы, 3-і, 2-і) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1968 каля в. Буда-Казімі раўская Мазырскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены абеліск.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «МСЦІ́ВЕЦ».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Рэчыцкага р-на.

Створана ў вер. 1943 на базе атрада

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «НАРО́ДНЫЯ МСЦІ́ЎЦЫ» ІМЯ́ В. Т. ВАРАНЯ́НСКАГА.** Да 1.6.1943 наз. «Дзядзькі Васі», потым — «Народныя мсціўцы», у студз. 1944 прысвоена імя В. Т. Варанянскага. Дзейнічала на акупіраванай тэр. Лагойскага і Плешчаніцкага р-наў.

Створана ў вер. 1942 на базе атрадаў «Мсцівец» (арганізаваны ў лют. 1942) і «Барацьба» (арганізаваны ў вер. 1941). Камандзіры В. Т. *Варанянскі* (загінуў), В. В. *Сямёнаў*, Г. Ф. *Пакроўскі*; камісары Л. С. Лапін, М. Х. Краснёнкаў (в. а.), Сямёнаў, Ф. С. *Кузняцоў*, М. І. Перапечка; нач. штаба П. А. Сярогін, Дз. І. Копанеў, В. І. Яськоў.

Баявыя аперацыі партызаны праводзілі на камунікацыях Мінск — Вільнюс, Маладзечна — Полацк, Мінск — Лепель і інш. Падарвалі больш за 3 тыс. рэек. 148 мастоў на шашы і 3 на чыгунцы. Нападалі на варожыя гарнізоны ў Мядзелі, Плешчаніцах (гл. *Плешчаніцкая аперацыя 1943*), Ілы, у в. Альковічы, Касцяневічы (гл. *Касцяневіцкі бой*



Партызаны Лёзненскай брыгады. Злева направа: начальнік штаба брыгады І. Дз. Крупін, партызан І. Іваноў, камандзір брыгады П. І. Кірылаў, партызан В. Грыгор'еў. Чэрвень 1944.



Партызаны атрада імя Р. І. Катоўскага брыгады «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага. Злева направа: немец Герберт Дытц, француз Альберт Барбіш, рускі А. С. Кручкоў, украінец Р. А. Рыбалка.

грунтавых дарогах. З 16.7 да 19.10. 1943 пусцілі пад адхон 26 варожых эшалонаў, знішчылі 35 аўтамашын, 10,2 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі, 6 мастоў, падарвалі склад боепрыпасаў, спалілі склад лесаматэрыялаў. У жн.—вер. 1943 на чыгунках Гомель — Калінкавічы, Гомель — Чарнігаў падарвалі больш за 530 рэек.

24.11.1943 брыгада (1031 партызан; атрады Лоеўскі «За Радзіму», імя Сталіна, імя Молатава, імя Калініна) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1966 у г. п. Лоеў, у 1978 каля в. Рудня-Бурыцкая Лоеўскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнікі.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА МАЗЫ́РСКАЯ ІМЯ́ АЛЯКСА́НДРА НЕ́ЎСКАГА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр.

«Мсцівец» (арганізаваны ў лют. 1943). Камандзір брыгады І. Р. Баруноў, камісар Ш. А. Ягуткін, нач. штаба У. Р. Зімчук.

Партызаны брыгады з Лоеўскай брыгадай «За Радзіму» і атрадам імя Суворава Палескай вобл. вялі баі па ачышчэнню раёна дыслакацыі ад варожых апорных пунктаў, утрымлівалі вызваленую тэрыторыю. У сак. 1943 удзельнічалі ў баях за выхад з блакады, у кастр. 3 сутак утрымлівалі абарону партыз. зоны. З 26.9 да 19.10.1943 у баях і дыверсіях знішчылі каля 50 аўтамашын, 5 матацыклаў.

22—26.11.1943 брыгада (792 партызаны; атрады «Мсцівец», імя Кутузава, імя Суворава) паатрадна злучылася з Чырв. Арміяй.



Радыст Мазырскай партызанскай брыгады імя Аляксандра Неўскага Г. А. Бобін вядзе радыёперадачу. Верасень 1943.

*1944*), на чыг. ст. Куранец і інш. У ліп. 1942 атрады «Мсцівец», «Барацьба», «Мясцовыя» і інш. разграмілі батальён ворага каля в. Валенцінова (гл. *Валенціноўскі бой 1942*). У маі — чэрв. 1943 партызаны брыгады вялі баі супраць фашыстаў, якія праводзілі карную аперацыю «Котбус». Разам з часцямі Чырв. Арміі 30.6.1944 разграмілі ням. батальён. Удзельнічалі ў вызваленні ад ням.-фаш. акупантаў Вілейкі, Маладзечна, Смаргоні, у ліквідацыі варожых падраздзяленняў (да 10.7.1944).

1.7.1944 брыгада (1475 партызан; атрады «Мсцівец», «Барацьба», імя Катоўскага, імя Суворава, імя Панамарэнкі) злучылася з Чырв. Арміяй. Камандзіру брыгады Пакроўскаму прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1971 у в. Хадакі Лагойскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнік, у Смаргоні — мемар. дошка.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА М. М. НІКІЦІНА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Бягомльскага, Валожынскага, Дзяржынскага, Івянецкага, Рудзенскага, Уздзенскага, Ушацкага, Чэрвеньскага р-наў.

Створана ў ліп. 1942 на базе атрадаў М. М. *Нікіціна*, А. В. Балікевіча, Я. А. Прыданнікава і інш. Камандзір Нікіцін; камісар А. М. Гваздзёў; нач. штаба Васільеў, Н. С. Панкратаў.

Баявыя аперацыі партызаны праводзілі на чыгунцы Койданава — Мінск і на шашэйных дарогах. Падарвалі 3 эшалоны, 32 аўтамашыны, 12 мастоў, разграмілі 8 апорных пунктаў ворага. 14.6.1942 атрад Нікіціна правёў *Александроўскі бой 1942*. У жн. 1942 партызаны зрабілі рэйд у Налібоцкую пушчу, потым за лінію фронту. У вер. ўдзельнічалі ў нападзе на варожы гарнізон ва Ушачах.

У кастр. 1942 у брыгадзе быў 391 партызан (атрады 1-ы, 2-і, 3-і, 4-ы, 5-ы, 6-ы). У ліст. выйшла ў сав. тыл, дзе была расфарміравана.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «НЯЎЛО́ЎНЫЯ»,** спецбрыгада НКДБ СССР. Дзейнічала на акупіраванай тэр. Дрысенскага, Лепельскага, Полацкага, Расонскага, Браслаўскага, Куранецкага, Глыбоцкага, Докшыцкага, Маладзечанскага, Міёрскага, Пастаўскага, Валожынскага, Іўеўскага, Лідскага, Навагрудскага, Навамышскага, Мінскага р-наў. Дыверсійныя і разведвальныя групы брыгады дзейнічалі таксама на тэр. Пскоўскай вобл., Літоўскай ССР і Латвійскай ССР. 1.3.1942 атрад (28 чал.) перапраўлены ў тыл ворага. Камандзіры М. С. *Пруднікаў*, А. Р. *Марозаў*. Папоўніўся мясцовым насельніцтвам. У асобныя перыяды склад брыгады дасягаў 1700 чал. За ўвесь час дзеяння брыгада налічвала 16 атрадаў. У кастр. 1943 яна была рэарганізавана: частка яе асабовага складу перададзена на фарміраванне брыгады А. М. Крыўскага, некалькі атрадаў і груп пакінуты ў былых месцах дзеянняў. З атрадамі, якія засталіся (633 байцы), у кастр.-снежн. 1943 перайшла з Полацкага р-на ў Юрацішкаўскі. Партызаны правялі больш за 140 баявых аперацый, пусцілі пад адхон шмат варожых эшалонаў, збілі 10 самалётаў, узарвалі і спалілі 104 чыг. і шашэйныя масты, больш за 80 аўтамашын і трактароў, 12 дрызін і матавозаў, 6 складоў, сапсавалі 50 км тэлефонна-тэлеграфных ліній 1170 чыг. рэек і інш. Перадавалі камандаванню Чырв. Арміі звесткі разведкі. Вялі паліт. работу сярод насельніцтва і салдат варожых фарміраванняў. Арганізоўвалі ўцёкі сав. ваеннапалонных з канцлагераў. У чэрв. 1942 разведчыкі брыгады здабылі і пераправілі ў Маскву 23 сакрэтныя карты фаш. камандавання з пазначаным на іх аператыўным становішчам.

12.7.1944 брыгада (1132 чал.) злучылася з Чырв. Арміяй. Камандзіру брыгады Прудпікаву прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1965 у Лідзе ў гонар брыгады пастаўлена стэла, у 1965 у в. Шчаперня Полацкага р-на — абеліск, у 1969 у в. Бакшты Іўеўскага р-на — абеліск.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «ПЕРАМО́ГА».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Зэльвенскага, Слонімскага, Дзятлаўскага, Казлоўшчынскага р-наў.

Створана ў снеж. 1943 на базе атрада «Перамога» (арганізаваны ў маі 1942), вылучанага партыз. брыгадай Ленінскай. Камандзір П. І. *Булак*; камісары Р. Г. *Іўліеў* (загінуў), С. П. Смірноў; нач. штаба М. Н. Бурцаў, М. С. Крываў.

Партызаны ў лютым — крас. 1944 на чыг. участку Слонім — Ваўкавыск падарвалі 13 эшалонаў, на шашэйных і грунтавых дарогах знішчылі 22 масты, каля 8 км тэлеграфна-тэлефоннай лініі. Правялі 17 баёў, у т. л. на дарозе Слонім — Казлоўшчына, знішчылі 10 аўтамашын, захапілі 2 гарматы, 3 мінамёты, 13 кулямётаў, 55 вінтовак. У час карнай аперацыі супраць партызан Шчучынскай зоны (чэрв. 1944) утрымлівалі абарону на р. Шчара, у ноч на 11.6.1944 прарвалі варожую блакаду на дарозе Слонім — Вільнюс, у ноч на 19 чэрв. каля в. Дзераўная другі раз прарвалі акружэнне, у баі падбілі 2 танкі.

13.7.1944 брыгада (901 партызан; атрады імя Суворава, імя Молатава, імя Будзённага, «1 Мая») злучылася з Чырв. Арміяй.



Партызаны атрада «Мсцівец» брыгады «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага накіроўваюцца на баявое заданне. Студзень 1943.



Партызаны брыгады «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага мініруюць чыгунку.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ПЕРШАМА́ЙСКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Карэліцкага, Навагрудскага, Мірскага, Гарадзішчанскага, Навамышскага р-наў.

Створана ў маі 1943 на базе атрадаў «Грозны», І. В. Маркава (пазней імя

Катоўскага), «Стралкова» (пазней імя Суворава), «Золатава» (пазней імя 1 Мая, арганізаваны ў чэрв. 1942) і «Кастрычнік» (арганізаваны ў студз. 1943). Камандзір Н. Г. *Кавалёў*; камісары А. І. Дзесў, М. І. *Ільініч*; нач. штаба Б. А. *Мічурын*, П. М. Пярсідскі. У снеж. 1943 з брыгады вылучаны атрады імя Будзённага (створаны ў кастр. 1943), імя Катоўскага, «Грозны» і на іх базе створана *партызанская брыгада «25 гадоў БССР»*. У сак. 1944 на базе атрада імя Суворава створана *партызанская брыгада імя А. В. Суворава.*

Партызаны толькі ў вер.— кастр. 1943 зрабілі 57 дыверсій, у выніку якіх падарвалі некалькі эшалонаў, знішчылі масты на чыг. участку Дварэц — Выгада і каля ст. Дамашэвічы, 2 масты на р. Упа і каля в. Вял. Жухавічы; на чыг. участку Баранавічы — Наваёльня падарвалі больш за 900 рэек, у чэрв. 1944 паміж ст. Нёман і Яцукі — больш за 570 рэек. Правялі шмат баёў па знішчэнню варожых гарнізонаў, супраць карных экспедыцый. У ліп. 1943 (з кав. атрадам Дз. А. Дзенісенкі) вялі абарончыя баі на правым беразе Нёмана і (з брыгадай імя Жукава) каля воз. Кромань. У кастр. 1943 разграмілі абоз ворага каля в. Юравічы, знішчылі 34 аўтамашыны. У чэрв. 1944 разам з брыгадай імя Суворава знішчылі варожы апорны пункт у в. Купіск (гл. *Купіскія баі 1944*).

10.7.1944 брыгада (627 партызан; атрады імя 1 Мая, «Кастрычнік», імя Жданава, імя Якуба Коласа) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1979 у в. Ярэмічы Карэліцкага р-на ў гонар брыгады пастаўлена стэла.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ПІ́НСКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Пінскага, Жабчыцкага і Іванаўскага р-наў БССР і Любяшоўскага р-на Валынскай вобл.

Створана ў жн. 1943 на базе атрадаў, вылучаных з *партызанскай брыгады імя В. М. Молатава.* Камандзір І. Г. *Шубітыдзе*, камісар А. З. *Пратасеня*, нач. штаба Г. А. Дораш.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунцы Іванава — Пінск — Лунінец, шашы Пінск — Столін, Пінск — Лагішын. З вер. 1943 да мая 1944 разбурылі 2,8 км чыг. палатна, знішчылі 21 мост, пашкодзілі 27,5 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі, спалілі 4 склады з боепрыпасамі. Разграмілі варожыя гарнізоны ў г. Камень-Каширскі Валынскай вобл. (ліп. 1943, гл. *Камень-Каширская аперацыя 1943*), у в. Добрая Воля Пінскага (кастр. 1943), Крамно Драгічынскага (ліп. 1943), Дубае Жабчыцкага (ліст. 1942), Яромічы Кобрынскага (чэрв. 1942), Радастава Дзівінскага (сак. 1943) р-наў, Оўзічы Іванаўскага (снеж. 1942), Лахвічы Любяшоўскага р-наў. У сак.— крас. 1944 разам з Чырв. Арміяй вялі жорсткія баі з праціўнікам у Пінскім і Іванаўскім р-нах.

30.3.1944 брыгада [1071 партызан; атрады імя Чапаева, імя Сталіна, імя Тадэвуша Касцюшкі, імя Нямытава (упаўнаважаны ЦК КП(б)Б па Пінскай вобл. У. Р. Нямытаў загінуў у снеж. 1942), імя Арджанікідзе, імя Жукава] злучылася з Чырв. Арміяй. У 1969 каля в. Зарэчка Драгічынскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнік.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «ПО́ЛЫМЯ».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Пухавіцкага р-на.

Створана ў чэрв. 1943 на базе атрадаў «Полымя» (арганізаваны ў ліп. 1942) і імя Чапаева, вылучаных з *партызанскай брыгады «За Радзіму» імя А. К. Флегантава.* Камандзір Я. Ф. *Філіпскіх*, камісар І. П. *Шаршнёў*, нач. штаба М. П. Тарыкаў.

Партызаны разам з брыгадамі Мінскай зоны вялі баі па ачышчэнню тэр. Пухавіцкага і сумежных з ім раёнаў ад ням.-фаш. захопнікаў, за ўтрыманне партыз. зоны, прарываліся з блакады (сак., снеж. 1943, май 1944). Правялі больш за 140 дыверсій па падрыву варожых эшалонаў на ўчастках Пухавічы — Талька, Рудзенск — Дрычын. У «рэйкавай вайне» на чыг. участках Пухавічы — Талька (3.8.1943) і Седча — Міханавічы (13.8.1943) падарвалі больш за 1,5 тыс. рэек. Двойчы ўзрывалі чыг. мост цераз р. Блужа (ліп. 1943), у кастр. 1943 падарвалі нафтабазу ў Мар'інай Горцы. Разам з Чырв. Арміяй вызвалілі г. п. Мар'іна Горка.

2.7.1944 брыгада (634 партызаны; атрады «Полымя», «Перамога», «Слава», імя Чапаева) злучылася з Чырв. Арміяй. Камандзіру брыгады Філіпскіх прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1965 і 1969 у в. Падкоссе і Балачанка Пухавіцкага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнікі.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «РАЗГРО́М».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Барысаўскага, Смалявіцкага, Чэрвеньскага р-наў.

Створана ў кастр. 1942 на базе атрадаў «Разгром» (арганізаваны ў лют. 1942), «Камуніст», «Сцяг», «Іскра» (арганізаваны ў маі 1942). Камандзіры П. Ц. *Кляквакін*, М. Х. *Балан*; камісары С. І. *Лашук*, С. А. Собалеў, А. В. Зямскоў, І. В. Лакціёнаў; нач. штаба К. С. Сасункевіч, А. Ц. Кароткі, В. В.順ручкоў.



Каманднa-палітычны састаў Пінскай партызанскай брыгады і ўдзельнікі партыйна-камсамольскага падполля Пінскай вобл. 1943.



Партызаны брыгады «Полымя» ў засадзе вядуць агонь па ворагу.



Палітрук 1-й роты партызанскага атрада «Іскра» брыгады «Разгром» Г. І. Бялоў чытае зводку Саўінфармбюро. Восень 1943.

15.2.1943 партызаны разграмілі торфапрадпрыемства ў Смалявіцкім р-не. На чыг. участках Жодзіна — Пліса 19.9.1943 і Смалявічы — Калодзішчы 20.6.1944 падарвалі больш за 2 тыс. рэек. 14.5.1944 разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Зарэчча і Пятровічы Смалявіцкага р-на, 28.5.1944 — у в. Цешкаўка Барысаўскага р-на, 14.6.1944 — чыг. ст. Пліса. 21.6.1944 вялі бой з карнікамі ў Смалявіцкім р-не.

2.7.1944 брыгада (1721 партызан; атрады «Разгром», «Іскра», «Сцяг», «Радзіма», «Мсцівец», імя Суворава) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1982—84 у в. Раваніцкая Слабада Чэрвеньскага р-на ў гонар брыгады створаны мемар. комплекс «Разгром».

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА РАСО́НСКАЯ ІМЯ́ І. В. СТА́ЛІНА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Расонскага, Асвейскага, Полацкага р-наў БССР, Ідрыцкага і Невельскага р-наў Калінінскай вобл.

Створана ў жн. 1942 на базе особнай групы атрадаў Расонскага р-на, якія ўваходзілі ў склад партыз. брыгады «За Савецкую Беларусь» (пазней *партызанская брыгада імя К. К. Ракасоўскага*) і былі аб'яднаны штабам, арганізаваным у маі 1942 Расонскім падп. РК КП(б)Б. Атрад імя Будзённага вылучаны з брыгады для самастойных дзеянняў у Полацкім р-не. Камандзір Р. А. *Ахоцін*; камісары В. Я. *Лапенка* (загінуў), Я. П. *Васілевіч*; нач. штаба П. Я. Рубіс, Г. П. Мезенцаў, Л. Ф. Рабінін. У ліп. 1943 на базе атрадаў імя Ракасоўскага і імя Кутузава, вылучаных з брыгады, створана *партызанская брыгада імя Г. К. Жукава*, якая перадыслацыравана ў Вілейскую вобл., атрад імя Молатава ўвайшоў у *партызанскую брыгаду 2-ю імя А. В. Суворава*.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунках Полацк — Невель, Полацк — Даўгаўпілс, Себеж — Рэзекне — Даўгаўпілс, Пустошка — Себеж. У жн. 1942 разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Клясціцы, Сакалішча, у вер.— у Расонах (гл. *Расонскі бой 1942*). Вызвалілі тэр. Расонскага р-на ад акупантаў і ўтрымлівалі партыз. зону да прыходу часцей Чырв. Арміі. У жн. 1943 на чыг. участку Дрэтунь — Турычына падарвалі больш за 1,2 тыс. рэек. У лют.— сак., кастр.— ліст. вялі бai з карнікамі. Двойчы нападалі на варожы гарнізон у в. Дудчына (кастр. 1943). У ліст. разам з часцямі Чырв. Арміі разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Харлашы, Трыполле і Гарадзішча Расонскага р-на.

3.11.1943 брыгада (2309 партызан, 4 батальёны; атрады імя Сталіна, імя Варашылава, імя Чапаева, імя Чкалава, імя Кірава, імя Фрунзе, імя Калініна, імя Лапенкі, імя Суворава, імя Жукава, імя Молатава, артылерыйскі дывізіён) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1964 у г. п. Расоны ў гонар брыгады пастаўлена стэла, у 1975 у в. Прудок Расонскага р-на насыпаны курган, пастаўлена стэла, у 1977 каля в. Межна Расонскага р-на — помнік, у 1975 каля в. Перавоз Расонскага р-на пастаўлена стэла.




Урачысты сход, прысвечаны 26-й гадавіне Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ў партызанскім атрадзе «Разгром» брыгады «Разгром».

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА РЭ́ЧЫЦКАЯ ІМЯ́ К. Я. ВАРАШЫ́ЛАВА.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Рэчыцкага, Хойніцкага, Васілевіцкага р-наў.

Створана ў чэрв. 1943 на базе атрада імя Варашылава (арганізаваны ў маі 1942 на базе групы М. Ф. Турчынскага, якая дзейнічала з жн. 1941). Камандзір брыгады М. П. Аніпка, камісар В. П. *Палавінка*.

Партызаны толькі ў жн. 1943 на чыг. участку Рэчыца — Бабічы падарвалі 320 рэек (рух быў спынены на 3 сутак), паміж чыг. ст. Рэчыца — Васілевічы падарвалі чыг. мост цераз р. Ведрыч, пусцілі пад адхон 13 эшалонаў. Разграмілі варожыя апорныя пункты ў в. Узнаж і Маканавічы Васілевіцкага р-на. Разам з часцямі Чырв. Арміі вызвалялі в. Берагавая Слабада, Унорыца Рэчыцкага р-на, захапілі пераправу і ўмацаваныя пазіцыі на правым беразе Дняпра каля в. Берагавая Слабада.

17.11.1943 брыгада (1368 партызан; атрады імя Варашылава, імя Фрунзе, імя Будзённага, разведрота) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1968 у в. Гарноўка і ў 1976 у в. Будка-Шыбенка Рэчыцкага р-на ў гонар брыгады пастаўлены абеліскі.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «САВЕ́ЦКАЯ БЕЛАРУ́СЬ».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Давыд-Гарадоцкага і Столінскага р-наў.

Створана ў жн. 1943 на базе атрадаў «Савецкая Беларусь» і імя Кутузава. Камандзіры П. П. *Тамілаў*, І. А. *Сматроў*; камісар Сматроў; нач. штаба Ю. М. Героеў, І. С. Каяфюк.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыг. участках Лунінец — Калінкавічы, Лунінец — Сарны і на шашэйных дарогах. Толькі з вер. да ліст. 1943 на чыгунцы Лунінец — Сарны падарвалі больш за 120 рэек, пашкодзілі 1,5 км чыг. палатна, спынілі рух на 22 сутак. У ліп. і кастр. 1943 з партызанамі злучэння А. М. Сабурава грамілі гарнізоны ў Давыд-Гарадку (гл. *Давыд-Гарадоцкія бai 1943*), у студз. 1944 з партызанамі С. А. Каўпака — у Століне. Знішчылі с.-г. ўправы ў в. Харомск, Ольцень, Альшаны, Сямігосцічы Давыд-Гарадоцкага р-на, 126 аўтамашын, у маёнтках Лутки, Рамель, Беражное спалілі 7,5 тыс. пудоў збожжа, падрыхтаванага для адпраўкі ў Германію, с.-г. машыны. У студз. 1944 разам з часцямі Чырв. Арміі вялі бai каля в. Колбікі, Старына Давыд-Гарадоцкага р-на, у лютым удзельнічалі ў разгроме варожай групоўкі каля в. Іванава Слабада Тураўскага р-на.

У лютым 1944 брыгада (903 партызаны; атрады імя Чкалава, імя Кутузава, імя Ракасоўскага) злучылася з Чырв. Арміяй. Потым былі створаны 3 знішчальныя атрады: Столінскі і Давыд-Гарадоцкія, якія праводзілі дыверсійную і разведвальную работу для Чырв. Арміі да паўторнага злучэння 8.6.1944. У 1965 у г. Століне ў гонар брыгады ўстаноўлена мемар. дошка.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «САВЕ́ЦКАЯ БЕЛАРУ́СЬ».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Косаўскага, Ружанскага, Пружанскага, Камянецкага, Гайнаўскага, Поразаўскага, Бярозаўскага і Драгічынскага р-наў.

Створана ў жн. 1943 на базе 3 атрадаў, вылучаных з *партызанскай брыгады імя П. К. Панамарэнкі*. Камандзір М. У. Бабкоў, камісар П. І. *Масалаў*, нач. штаба Р. К. Дарафееў.

Асн. ўдары партызаны наносілі на чыг. участках Брэст — Баранавічы, Ваўкавыск — Масты, Брэст — Пінск. У вер.— снеж. 1943 знішчылі і пашкодзілі больш за 60 аўтамашын, падарвалі 21 эшалон ворага, каля 750 рэек, 12 мастоў на чыг. і шашэйных дарогах. Атрад імя Суворава знішчыў 26 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі ўздоўж шашы Брэст — Мінск. У чэрв. 1944 брыгада зрабіла баявы рэйд з

Бярозаўскага ў Кобрынскі р-н, авалодала чыг. участкам Кобрын — Гарадзец і падарвала больш за 300 рэек. Паўгода блакіравала дарогу Драгічын — Бяроза, у крас. 1944 удзельнічала ў *Здзітаўскай абароне 1944*.

12—17.7.1944 брыгада [863 партызаны; атрады імя Чкалава, імя Суворава, імя Калупаева (да крас. 1944 атрад імя Дз. Пажарскага, прысвоена імя камандзіра атрада А. І. Калупаева, загінуў у баі)] злучылася з Чырв. Арміяй. У 1965 у Драгічыне ў гонар брыгады ўстаноўлена мемар. дошка.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА СЕ́ННЕНСКАЯ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Сенненскага, Чашніцкага і Лепельскага р-наў.

Створана ў кастр. 1942 у выніку падзелу *партызанскай брыгады М. П. Гудкова*. У вер. 1943 з брыгады вылучана група (60 партызан) для арганізацыі *партызанскай брыгады Багушэўскай* (2-га складу). Камандзір Сенненскай брыгады В. С. *Лявонаў*; камісары П. В. *Сырцоў*, М. Ц. *Любімцаў*; нач. штаба В. Дз. Сыценка, І. К. Пашчанка, Я. З. Шарахоўскі.

Партызаны праводзілі дыверсіі на варожых камунікацыях. У «рэйкавай вайне» на чыгунках Орша — Віцебск і Орша — Лепель падарвалі і папсавалі больш за 1 тыс. рэек. У снеж. 1942 разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Чарэя, у вер.— кастр. 1943 — у в. Граеўшчына, Слідцы, Закур'е, Прыдвор'е, Лукомль Чашніцкага р-на, удзельнічалі ў *Лепельскай аперацыі 1943* і ў *Лепельскім баі 1943*. У снеж. 1943, лют.— сак. 1944 вялі баі каля в. Новая Беліца Сенненскага р-на (гл. ў арт. *Беліцкая абарона 1943—44*). У студз.— лютым 1944 разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Ходцы, Ладзікава, Лядзіны, Крыльцова Сенненскага р-на. У час карнай экспедыцыі ворага супраць партызан Полацка-Лепельскай зоны ў маі 1944 разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Залессе, Матырына Лепельскага р-на, у чэрв. прарвалі варожую блакаду на шашы Лепель — Барысаў і Халопенічы — Бягомль.

26.6.1944 брыгада [1939 партызан; атрады В. А. Захарчанкі (пачаў ствараццa ўвосень 1941), імя Суворава (створаны ў маі 1942), імя Хаіркізава (атраду нададзена імя памочніка камандзіра брыгады К. А. Хаіркізава, які загінуў у чэрв. 1943), імя Чапаева, А. М. Захарава, 6-ы, «За Радзіму», імя Аляксандра Неўскага, «Смерць фашызму», П. Ф. Гарбачова, імя Багдана Хмяльніцкага, імя Кутузава, разведвальны] злучылася з Чырв. Арміяй. У 1975 у гонар брыгады ў в. Антаполле Чашніцкага р-на ўстаноўлена мемар. дошка, у 1975 у в. Чарэя Чашніцкага р-на — мемар. дошка, у 1968 каля в. Крайцы Лепельскага р-на — мемар. знак.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «СМЕРЦЬ ФАШЫ́ЗМУ».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Смалявіцкага, Барысаўскага, Лагойскага, Плешчаніцкага р-наў.

Створана ў ліп. 1943 на базе атрада «Смерць фашызму» (арганізаваны ў чэрв. 1942). Камандзір брыгады В. Ф. *Таруной*, камісар І. П. *Дзядзюля*, нач. штаба А. А. Кіслякоў.

Партызаны рабілі дыверсіі на чыгунцы і шашы Мінск—Смалявічы — Барысаў, узарвалі і спалілі 55 мастоў, 4 склады. У ноч на 26.9.1943 падарвалі 470 рэек, разбурылі 1,5 км чыгункі. Неаднаразова пашкоджвалі падземны кабель, які злучаў стаўку Гітлера з Усх. фронтам. У крас.— чэрв. 1943, крас.— чэрв. 1944 вялі баі з карнікамі. У ліп. 1944 удзельнічалі ў ліквідацыі групоўкі ням.-фаш. войск у Смалявіцкім р-не.

2.7.1944 брыгада (706 партызан; атрады імя Будзённага, імя Кутузава, імя Чкалава, імя Варашылава) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1967 у в. Юр'ева Смалявіцкага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнік.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «СПАРТА́К».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Відзскага і Шаркоўшчынскага р-наў.

Створана ў ліп. 1943 на базе атрада «Спартак» (арганізаваны ў маі 1942 у партыз. брыгадзе 2-й Бел. імя Панамарэнкі як 3-і атрад і накіраваны ў Відзскі р-н, дзе папоўніўся мясцовымі групамі і названы «Спартак»). У ліст. 1942 у час баёў з карнікамі атрад падзяліўся на 2 групы. Група на чале з А. М. *Панамаровым* і І. Н. Крысавым перайшла ў Ушацкі р-н, другая — у Расонскі р-н. У сак. 1943 з 1-й групы паўторна створаны атрад «Спартак», якому ў маі перададзена частка асабовага складу брыгады 1-й імя Суворава. Камандзір брыгады «Спартак» А. М. *Панамароў*; камісар М. К. *Ігнацьеў*; нач. штаба І. Н. *Крысаў*, Ф. А. Салаўёў.

Партызаны ў вер. 1942 рабілі напады на гарнізоны ў в. Казяны (гл. *Казянскія баі 1942*), Опса, увосень вялі баі з карнікамі каля в. Азярава, Якшты, Журавоўшчына. У жн. 1943 на чыг. участку Варапаева — Крулеўшчына падарвалі больш за 850 рэек, на чыг. Вільнюс — Даўгаўпілс — больш за 1 тыс. рэек. У студз., крас., маі 1944 разграмілі ўмацаваныя варожыя гарнізоны ў Відзах, Опсе, пусцілі пад адхон 21 эшалон, знішчылі 11 складоў. Да прыходу Чырв. Арміі занялі райцэнтры Відзы, Дзісну, Твярачус.

4.7.1944 брыгада (674 партызаны; атрады 1-ы, 2-і, 3-і, 4-ы, 5-ы, 6-ы) злучылася з Чырв. Арміяй.



Партызаны брыгады «Разгром» вырабляюць гранаты.



Камандзір брыгады «Савецкая Беларусь» П. П. Тамілаў выступае на мітынгу ў в. Мілевічы Давыд-Гарадоцкага р-на.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «СТАРЫ́».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Барысаўскага р-на.

Створана ў жн. 1942 на базе атрадаў «Стары» (пазней «За Радзіму»), А. І. Тамашэвіча (пазней «За Бацькаўшчыну»), «Беларусь», «Бальшавік», у ліст. 1942 уключаны атрад «Смерць фашызму», у крас. 1943 створаны атрад імя Варашылава. Камандзіры В. С. *Пыжыкаў* (Уладзіміраў, «Стары»), І. З. Рабышаў (в. а.); камісары Б. Р. Бывалы, Я. Я. Ліхтэр; нач. штаба Рабышаў (в. а.), М. А. Курачкін (в. а.), Я. С. Чумакоў.

Баявыя аперацыі партызаны праводзілі на камунікацыях Крупкі — Смалявічы, Барысаў — Зембін і інш. У 2-й пал. 1942 падарвалі больш за 10 варожых эшалонаў, 13 мастоў, пашкодзілі больш за 13 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі, спалілі 4 прадпрыемствы, 4 ням. склады. Нападалі на варожыя гарнізоны ў в. Неманіца, Зачысце, Барань, Кішчына Слабада, Жыцькава, Кастрыца, Траянаўка Барысаўскага, в. Красналукі (з атрадам «Гвардзеец») Халопеніцкага р-наў. У лют. 1943 удзельнічалі ў баях з карнікамі, выратавалі жыхароў в. Баранскія Пруды Барысаўскага р-на ад смяротнай кары. У маі 1943 брыгада (213 партызан) расфарміравана.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «У І́МЯ РАДЗІ́МЫ».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Бранскага, Бельскага, Лапскага, Свіслацкага і Гайнаўскага р-наў.

Створана ў кастр. 1943 на базе атрада «За Радзіму» (арганізаваны ў студз. 1943 у брыгадзе 27-й імя Чапаева Мінскай вобл., у жн. 1943 вылучаны з брыгады і ў складзе групы атрадаў П. П. *Капусты* перадыслацыраваны ў Беластоцкую вобл.). Камандзір брыгады М. Р. *Янкоўскі*, камісар М. І. Чуркін, нач. штаба У. П. Трыгубаў.

Партызаны правялі больш за 150 баявых аперацый. У Клецку і яго ваколіцах знішчылі ф-ку шарсцяных і лямцавых вырабаў, аўтарамонтную майстэрню. У вер. 1943 у выніку дыверсіі на чыг. участку Лунінец — Баранавічы рух спынены на 4 сутак. У кастр. — ліст. 1943 у час рэйду з Клецкага р-на ў Беластоцкую вобл. на чыг. Баранавічы — Брэст разбурылі 2 км чыг. палатна. За ўвесь перыяд баявых дзеянняў пусцілі пад адхон больш за 30 эшалонаў, знішчылі 33 аўтамашыны, 43 масты, вялі сустрэчныя баі. Пасля жорскіх баёў з ворагам стварылі базу ў Белавежскай пушчы, блакіравалі ням. гарнізон ў Белавежы, кантралявалі і ахоўвалі рэзерват з зубрамі.

17.7 — 1.8.1944 брыгада паатрадна (623 партызаны; атрады імя Кутузава, імя Багдана Хмяльніцкага, імя Пархоменкі, імя Дзяржынскага, імя Жукава) злучылася з Чырв. Арміяй.



Група каманднага саставу партызанскай брыгады «Спарта́к».



Камандны састаў партызанскай брыгады «У імя Радзімы». Май 1944.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «УПЕ́РАД».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Юрацішкаўскага і Іўеўскага р-наў.

Створана ў ліст. 1943 на базе атрадаў імя Чкалава (арганізаваны ў ліп. 1942 на базе груп Ф. І. *Зайцава*, І. М. Палешчука, С. С. *Ключніка*, І. М. Ляўковіча), імя Аляксандра Неўскага, «Бальшавік» (арганізаваны ў чэрв. 1943), «Гай» (арганізаваны ў маі 1943) і «Сібірак» (арганізаваны ў вер. 1943 на базе добраахвотнікаў-сібіракоў). У крас. 1944 на базе атрада імя Аляксандра Неўскага, вылучанага з брыгады, створана *партызанская брыгада імя Аляксандра Неўскага*. Камандзіры брыгады «Уперад» Б. А. *Булат*, Ф. Г. Камароў (в. а.); камісар М. В. Пронькін; нач. штаба М. У. Сабіла.

Партызаны баявымі дзеяннямі зрывалі варожыя перавозкі на чыг. участках Ліда — Маладзечна, Баранавічы — Ліда. У лютым 1944 падарвалі 5 эшалонаў. На ўчастку Яхімаўшчына — Юрацішкі спалілі 58 вагонаў з ваен. тэхнікай, спынілі рух на 57 гадзін. Разграмілі 10 варожых апорных пунктаў, у сак. правялі 15 баёў, захапілі 15 вінтовак, 2 кулямёты, боепрыпасы. У чэрв. 1944 падарвалі 580 рэек.

6.7.1944 брыгада (471 партызан; атрады імя Чкалава; «Беларускі мсцівец», «Бальшавік», «Сібірак») злучылася з Чырв. Арміяй. Камандзіру брыгады Булату прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1965 у Лідзе ў гонар брыгады пастаўлена стэла, у 1969 у в. Бакшты Іўеўскага р-на — абеліск.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «УПЕ́РАД»,** спецбрыгада НКДБ СССР. Дзейнічала на акупіраванай тэр. Добрушскага, Чачэрскага, Кармянскага, Рагачоўскага, Свяцілавіцкага, Касцюковіцкага, Краснапольскага, Крычаўскага, Прапойскага, Хоцімскага, Чавускага, Чэрыкаўскага р-наў і Арлоўскай вобл.

21.4.1942 у варожы тыл перапраўлены атрад (30 чал.), які папоўніўся мясцовым насельніцтвам і перарос у брыгаду. Камандзіры П. Р. Шамякін, П. Г. Малюгін.

Партызаны пусцілі пад адхон 101 эшалон ворага, знішчылі і пашкодзілі 77 паравозаў, 1180 вагонаў і платформ, 75 аўтамашын, 5 самалётаў, 39 танкаў і бронемашын, параход і 2 баржы, узарвалі 23 склады, 38 мастоў, сапсавалі 59 км чыг. пуці і 9 км тэлеграфна-тэлефоннай лініі. У баі 4.7.1943 разам з *партызанскім атрадам «Слаўны»* знішчылі 50 гітлераўцаў, 5 грузавых і легкавую аўтамашыны, 2 гарматы, 2 мінамёты, захапілі зброю. Перадавалі камандаванню

Чырв. Арміі звесткі разведкі. 29.9. 1943 з часцямі Чырв. Арміі разграмілі варожую калону, захапілі 300 падвод, 5 аўтамашын з боепрыпасамі, 7 самаходных гармат «фердынанд», 3 гарматы, 4 мінамёты і інш. 1.10.1943 брыгада (411 чал.) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА ЧА́ШНІЦКАЯ «ДУ́БАВА».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Ушацкага, Лепельскага, Чашніцкага, Бешанковіцкага, Халопеніцкага і Бягомльскага р-наў.

Створана 28.8.1942 на базе вылучанага з брыгады «Смерць фашызму» (пазней імя В. І. Чапаева) 9-га (камандзір Ф. Ф. *Дуброўскі*) і асобнага 68-га (камандзір У. Е. *Лабанок*) атрадаў, якія дзейнічалі з сак.— крас. 1942 у Лепельскім, Ушацкім і Чашніцкім р-нах. У ліп. 1943 частка атрадаў брыгады [3-і, 4-ы, 8-ы, 9-ы, 13-ы і частка арт. дывізіёна) вылучана для арганізацыі *партызанскай брыгады Лепельскай імя І. В. Сталіна*. Камандзір Чашніцкай брыгады Дуброўскі («Дубаў»); камісары Лабанок, М. В. *Старынскі*, С. Я. *Барадаўкін*; нач. штаба Барадаўкін, П. К. Шарко.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунках Полацк — Маладзечна, Орша — Лепель. У час аперацыі «Канцэрт» падарвалі каля 2 тыс. рэек. Вялі баі па вызваленню ад ням.-фаш. захопнікаў тэр. Лепельскага, Чашніцкага і Ушацкага р-наў (гл. *Бароўскі бой 1942* і інш.). У вер. 1942 правялі некалькі наступальных аперацый на гарнізоны ў Ушачах, што прымусіла гітлераўцаў пакінуць гар. пасёлак. У студз. 1943 вялі баі за в. Пышна (гл. *Пышнянскія баі 1943*), у сак. разграмілі гарнізон на ст. Чашнікі (гл. *Чашніцкі бой 1943*), у крас. нанеслі адначасовы ўдар па гарнізонах ворага ў в. Забалацце, Студзёнка, Юркаўшчына Лепельскага р-на. У ліп. 1943 разграмілі гарнізоны ў в. Цяпіна, Варкі, Залессе Чашніцкага р-на. У кастр. 1943 разам з Лепельскай брыгадай імя Сталіна ўдзельнічалі ў штурме варожага гарнізона ў Лепелі (гл. *Лепельская аперацыя 1943* і *Лепельскі бой 1943*). У маі — чэрв. 1943 у час карных экспедыцый ворага ўдзельнічалі ў жорсткіх баях у раёне в. Пышна — Тартак — Лагі — Заазер'е. У маі — чэрв. 1944 утрымлівалі лінію абароны каля в. Валовая Гара — Домжарыцы — Саўскі Бор Лепельскага і Бягомльскага р-наў; прарвалі варожую блакаду ў раёне в. Макаўе — Мажніцы Бягомльскага р-на. У чэрв. 1944 разам з сав. воінамі наносілі ўдары па праціўніку ў раёне Чашнікі — Лукомль.

28.6.1944 брыгада [1808 партызан; атрады 1-ы, 2-і, 3-і імя Дзідзенкі (камандзір атрада М. М. Дзідзенка загінуў), 4-ы, 5-ы, 6-ы імя Вітко (камандзір атрада В. Ф. Вітко загінуў), 7-ы, 8, 9, 10, 11, 12, 13, 14, 15-ы] злучылася з Чырв. Арміяй. Камандзіру брыгады Дуброўскаму і камісару брыгады Лабанку прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

У 1965 у в. Антунова Ушацкага р-на ўстаноўлены мемар. знак, у 1967 каля в. Бароўка 2-я Лепельскага р-на пастаўлена стэла, у 1971 каля в. Завыдрына Ушацкага р-на — стэла, у 1974 у в. Пышна Лепельскага р-на ўстаноўлена мемар. дошка, у 1975 у в. Забор'е Чашніцкага р-на — мемар. дошка.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «ЧЫРВО́НЫ СЦЯГ».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Чэрвеньскага, Барысаўскага, Смалявіцкага, Пухавіцкага, Асіповіцкага, Бярэзінскага р-наў.

Створана ў жн. 1943 на базе атрадаў «Чырвоны сцяг» (арганізаваны ў сак. 1942) і імя Варашылава (арганізаваны ў снеж. 1942), вылучаных *партызанскай брыгадай «За Радзіму» імя А. К. Флегантава*. Камандзір І. З. *Кузняцоў*, камісар В. П. *Каралёў*, нач. штаба К. І. Івашкевіч.

Партызаны ажыццяўлялі дыверсіі на чыг. участках Жодзіна — Барысаў, Мінск — Пухавічы. У жн.— вер. 1943 на чыг. участках Жодзіна — Смалявічы, Талька — Пухавічы падарвалі больш за 560 рэек, правялі 84 дыверсіі па падрыву варожых эшалонаў, спалілі 27 аўтамашын, на шашэйных і грунтавых дарогах разбурылі 22 масты. У вер. 1943 і маі 1944 з баямі выходзілі з акружэння. Разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Якшыцы, Чырвоны Вугал, Хутар Бярэзінскага р-на. У час наступлення Чырв. Арміі 23—30.6.1944 заблакіравалі шашу Магілёў — Мінск, падбілі 20 варожых аўтамашын, знішчылі 12 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі. Удзельнічалі ў вызваленні г. Чэрвень, в. Карпілаўка, Хутар, Стары Пруд Чэрвеньскага р-на.

30.6.1944 брыгада (818 партызан; атрады «Чырвоны сцяг», імя Варашылава, імя Фрунзе, імя Гастэлы) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1965 у в. Горкаўская Слабада Чэрвеньскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены помнік.



Партызаны Чашніцкай брыгады «Дубава» слухаюць Маскву.



Партызаны Чашніцкай брыгады «Дубава» вядуць агонь па праціўніку.



Партызаны Чашніцкай брыгады «Дубава» знаёмяцца з апошнімі паведамленнямі.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «ЧЭКІ́СТ».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Шклоўскага, Бялыніцкага, Круглянскага, Талачынскага, Аршанскага і Лепельскага р-наў.

Створана ў канцы мая 1942 з атрадаў Г. А. Кірпіча (пазней *партызанскі атрад 1-ы*) і І. Дз. Буланава (пазней *партызанскі атрад 10-ы*) як «Аб'яднанне партыз. атрадаў», у ліп. 1942 атрымала назву брыгады «Чэкіст». Камандзір Г. А. *Кірпіч*; камісары Ф. М. *Сядлецкі*, Ф. І. *Букштынаў*; нач. штаба І. Дз. Буланаў, Р. М. Севасцьянаў. У вер. 1942 у час баёў з карнікамі брыгада «Чэкіст» прарвала блакаду і выйшла ў Лепельскі р-н. У крас. 1943 брыгада вярнулася ў свой раён дыслакацыі, увайшла ў ВАГ пры Магілёўскім падп. абкоме КП(б)Б, брыгадзе нададзены № 15, адпаведныя нумары атрымалі атрады.

Партызаны вялі баі з ворагам, ратавалі насельніцтва ад загубы і вывазу на катаржныя работы ў Германію. Праводзілі аперацыі на чыг. участках Мінск — Орша, Орша — Магілёў. 22.6.1942 каля в. Дымава Шклоўскага р-на разбілі атрад карнікаў. 25.5.1943 нанеслі адначасовы ўдар па варожых гарнізонах у в. Клімавічы, Таўкачы, Аўчыненкі Шклоўскага р-на. У жн. 1943 на ўчастку Магілёў — Лотва падарвалі 500 рэек. У жн. 1943 брыгада (больш за 800 партызан, 7 атрадаў) пераўтворана ў *Шклоўскую ваенна-аператыўную групу*.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ БРЫГА́ДА «ШТУРМАВА́Я».** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Заслаўскага, Лагойскага, Мінскага, Радашковіцкага р-наў.

Створана ў снеж. 1942 на базе атрадаў «Штурм» (арганізаваны ў крас. 1942), «Грозны» (арганізаваны ў вер. 1942), «За Бацькаўшчыну» (арганізаваны ў жн. 1942). Камандзіры Б. М. Лунін, І. Л. Фогель (в. а.), І. А. Гламаздзін (в. а.), камісар І. М. *Фёдараў*, нач. штаба Фогель, А. Ф. Кандыбкін.

У жн. 1943 на чыгунцы Мінск — Маладзечна партызаны падарвалі больш за 1,5 тыс. рэек. Разграмілі 2 чыг. станцыі, узарвалі і спалілі 168 мастоў, 21 склад, знішчылі 49 ням. гаспадарак і прадпрыемстваў. У маі — чэрв. 1943 вялі баі супраць карнікаў, якія праводзілі аперацыю «Котбус». У крас. 1942 разграмілі варожы гарнізон у в. Боўблі Заслаўскага р-на, у кастр. 1942 разграмілі батальён карнікаў у в. Курганы Заслаўскага р-на (гл. *Курганскі бой 1942*), у снеж. 1942 нападалі на гарнізон у Лагойску (гл. *Лагойскі бой 1942*). У студз. 1944 выратавалі 274 дзіцяці з дзіцячага дома ў мястэчку Сёмкаў Гарадок.

2.7.1944 брыгада (1464 партызаны; атрады «Штурм», «За Бацькаўшчыну», імя Фрунзе, «Грозны», імя Жукава, імя Панамарэнкі) злучылася з Чырв. Арміяй. У 1963 каля в. Сярэдняя Мінскага р-на ў гонар брыгады пастаўлены абеліск, у 1970 у Лагойску ўстаноўлена мемар. дошка.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ ГРУ́ПА**, першапачатковая арганізацыйная і баявая адзінка партыз. сіл, найменшае партыз. падраздзяленне. Сыграла важную мабілізацыйную ролю ў арганізацыі партыз. барацьбы ў тыле ворага. Ствараліся парт. і сав. органамі пераважна на акупіраванай ням.-фаш. захопнікамі тэрыторыі, фарміраваліся і ў сав. тыле. У пачатку П. г. стваралі камуністы, б. члены КПЗБ, камсамольцы, беспартыйныя патрыёты і сав. ваеннаслужачыя, якія трапілі ў акружэнне ці збеглі з варожага палону. Колькасны склад і ўзбраенне групы былі разнастайнымі, залежалі ад характару задач і ўмоў, у якіх кожная з іх ствралася і дзейнічала. Паводле прызначэння і спосабу фарміравання адрозніваліся партызанскія, ініцыятыўныя, спецыяльныя, дыверсійныя, разведвальныя і інш. Дыверсійныя групы спачатку фарміраваліся ў сав. тыле з кантынгенту, які быў абучаны падрыўной справе. З ліст. 1942 і асабліва летам 1943 пад кіраўніцтвам БШПР вялася масавая падрыхтоўка падрыўнікоў у партыз. брыгадах і атрадах. Вясной 1942 у сувязі з масавым прытокам мясцовага насельніцтва да партызан, выхаду ў лес падп. груп П. г. сталі хутка колькасна павялічвацца, у выніку чаго на іх базе масава ствараліся *партызанскія атрады* (зімой і вясной 1941—42 на базе П. г. створана 150 новых атрадаў, за лета 1942 гэта лічба павялічылася яшчэ на 121 атрад). *А. Л. Манаенкаў.*



Група партызан брыгады «Чырвоны сцяг». Вясна 1943.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ ГРУ́ПА «АРЛЫ́»**, спецгрупа НКДБ БССР. Дзейнічала на акупіраванай тэр. Ганцавіцкага, Лагішынскага, Лунінецкага р-наў. 12.12.1943 група перапраўлена ў тыл ворага. Камандзір Дз. М. Сакалінскі. Група праводзіла дыверсійную дзейнасць: байцы пусцілі пад адхон 10 эшалонаў ворага, разбілі 73 вагоны і платформы, знішчылі 14 аўтамабіляў, узарвалі 5 мастоў на аўтадарогах. У баях і засадах знішчана больш за 500 гітлераўскіх салдат і афіцэраў. У крас. 1944 група ўдзельнічала ў разлажэнні хатыніцкага паліцэйскага гарнізона. Група праводзіла збор звестак аб месцах дыслакацыі, колькасці, узбраенні гарнізонаў і апорных пунктаў праціўніка, выяўляла склады з боепрыпасамі. 12.7.1944 група злучылася з часцямі Чырв. Арміі.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ ГРУ́ПА «БУ́РА»**, спецгрупа НКДБ БССР. Дзейнічала на акупіраванай тэр. Вілейскай вобл. 17.4.1944 група (8 чал.) перапраўлена ў варожы тыл. Папоўнілася мясцовым насельніцтвам. Камандзір М. А. *Міхайлашаў*. Падрыўнікі пусцілі пад адхон 43 эшалоны ворага, знішчылі 154 аўтамашыны, 3 самалёты, 5 танкаў, 18 гармат, узарвалі больш за 5 км чыг. палатна. 2.7.1944 група (34 чал.) злучылася з Чырв. Арміяй. Міхайлашаву прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ ГРУ́ПА «БЫВА́ЛЫЯ»**, спецгрупа НКДБ СССР. Дзейнічала на акупіраванай тэр. Чашніцкага, Смалявіцкага, Барысаўскага і Лагойскага р-наў. 28.3.1942 група (21 чал.) перапраўлена ў тыл ворага. Камандзір П. Р. *Лапацін*. У маі 1942 пераўтворана ў атрад «Дзядзькі Колі», у жніўні 1942 на базе атрадаў «Дзядзькі Колі» (пазней імя Дзяржынскага), «Камунар», імя Сталіна, імя Чапаева, «Бура», «За Айчыну» і дыверсійнай групы Г. Р. Каўзановіча створана *партызанская брыгада «Дзядзькі Колі»*. Камандзіру групы, атрада і брыгады Лапаціну прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ ГРУ́ПА «ВО́ЛАТЫ»**, спецгрупа НКДБ СССР. Дзейні-

чала на акупіраванай тэр. Капыльскага, Дзяржынскага, Слуцкага, Навамышскага, Стаўбцоўскага, Лунінецкага р-наў. У студз. 1944 група (46 чал.) перапраўлена ў тыл ворага. Папоўнілася мясцовым насельніцтвам. Камандзір А. М. *Шыхаў*. Партызаны правялі 63 баявыя аперацыі, пусцілі пад адхон 43 варожыя эшалоны, у т. л. браняпоезд, разбілі 47 паравозаў, 347 вагонаў і платформ, знішчылі 9 аўтамашын, 2 танкі, мост. 1—2.7.1944 група (100 чал.) злучылася з Чырв. Арміяй. Шыхаву прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ ГРУ́ПА «ДРУ́ЖБА»,** спецгрупа НКДБ БССР. Дзейнічала на акупіраванай тэр. Рэчыцкага, Дзятлаўскага, Лоеўскага, Шчучынскага р-наў. 7.9.1943 група (7 чал.) перапраўлена ў варожы тыл. Камандзір І. А. Жолабаў. Падрыўнікі пусцілі пад адхон 22 эшалоны ворага, разбілі і папсавалі 25 паравозаў, больш за 150 вагонаў і платформ, 51 аўтамашыну, 2 танкі, узарвалі 4 масты, разбурылі 1 км чыг. палатна. У ліст. 1943 група (150 чал.) злучылася з Чырв. Арміяй.

6.4.1944 група (15 чал.) зноў перапраўлена ў варожы тыл; 10.7.1944 злучылася (60 чал.) з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ ГРУ́ПА «ЗАХО́ДНІЯ»,** спецгрупа НКДБ БССР. Дзейнічала на акупіраванай тэр. Жалудоцкага, Аўгустоўскага і Ваўкавыскага р-наў. 13.10.1943 група (7 чал.) перапраўлена ў тыл ворага. Камандзір Ф. С. Пілюгін. Падрыўнікі пусцілі пад адхон 12 эшалонаў ворага, знішчылі 2 танкі, 10 аўтамашын, 2 чыг. масты, шлюз на Аўгустоўскім канале, электрастанцыю, перадавалі камандаванню Чырв. Арміі звесткі разведкі. 13.7.1944 група (38 чал.) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ ГРУ́ПА «ЗНІШЧА́ЛЬНІК»,** спецгрупа НКДБ СССР. Дзейнічала на акупіраванай тэр. Асіповіцкага, Бабруйскага, Клічаўскага, Жлобінскага, Рагачоўскага, Барысаўскага, Дзяржынскага, Мінскага, Пухавіцкага, Маладзечанскага, Лідскага, Навагрудскага р-наў. 4.8.1943 група (23 чал.) перапраўлена ў тыл ворага. Камандзіры Н. В. Карнілаў (загінуў), А. Н. Чычэнка. Байцы пусцілі пад адхон 45 варожых эшалонаў, у т. л. бронецягнік, знішчылі і папсавалі 237 вагонаў і платформ, 7 аўтамашын, падарвалі мост цераз р. Уса, разбурылі 1 км чыгункі, больш за 3 км тэлефонна-тэлеграфных ліній. 7.7.1944 група (55 чал.) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ ГРУ́ПА «ІСКРА»,** спецгрупа НКДБ БССР. Дзейнічала на акупіраванай тэр. Антопальскага, Дзівінскага, Кобрынскага, Маларыцкага, Драгічынскага р-наў. 28.10.1943 група (4 чал.). перапраўлена ў варожы тыл. Камандзір М. П. Хахлоў. Партызаны пусцілі пад адхон 34 эшалоны ворага, знішчылі і папсавалі больш за 450 вагонаў і платформ, 66 аўтамашын, 4 гарматы, цэх лесапільнага з-да, дзе выраблялі фюзеляжныя рамы для самалётаў, узарвалі больш за 500 м чыгункі. Перадавалі камандаванню Чырв. Арміі звесткі пра абарончыя збудаванні ворага ўздоўж Буга, план размяшчэння ваен. аб'ектаў у Брэсце і яго наваколлі. Група 8.4.1944 (21 чал.) і 24.7.1944 (15 чал.) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ ГРУ́ПА «МЯДЗВЕ́ДЗЕВА»,** спецгрупа НКДБ БССР. Дзейнічала на акупіраванай тэр. Акцябрскага, Глускага, Капаткевіцкага р-наў. 2.8.1943 група (4 чал.) перапраўлена ў тыл ворага. Папоўнілася мясцовым насельніцтвам. Камандзір Р. І. Слепаў (псеўд. Мядзведзеў). Падрыўнікі пусцілі пад адхон 14 эшалонаў ворага, бронецягнік, знішчылі 63 аўтамашыны, 3 танкі, самалёт, 5 складоў, электрастанцыю на чыг. ст. Калінкавічы, 2 лесакамбінаты, разбурылі больш за 1000 м чыг. палатна, 1000 м тэлеграфна-тэлефоннай лініі і інш. Перадавалі камандаванню Чырв. Арміі звесткі разведкі. У лютым 1944 група (больш за 100 чал.) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ ГРУ́ПА «РО́ДНЫЯ»,** спецгрупа НКДБ БССР. Дзейнічала на акупіраванай тэр. Дзяржынскага, Заслаўскага, Мінскага, Івянецкага р-наў. 13.4.1943 група (10 чал.) перакінута ў тыл праціўніка. Камандзір Я. А. Фокін. Падрыўнікі групы пусцілі пад адхон 25 эшалонаў праціўніка, знішчылі і папсавалі 146 вагонаў і платформ, 11 танкаў і бронемашын, 19 аўтамашын, 7 гармат, узарвалі 2 масты, 2 склады, больш за 1 км чыгункі, каля 2 км тэлеграфна-тэлефонных ліній. У вер. 1943 здабылі і перадалі ў Цэнтр спіс шпіёнаў і дыверсантаў, закінутых фашыстамі ў сав. тыл. Вялі паліт. работу ў варожых фарміраваннях. 4.7.1944 група (21 чал.) злучылася з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ ГРУ́ПА «СТО́ЙКІЯ»,** спецгрупа НКДБ БССР. Дзейнічала на акупіраванай тэр. Ваўкавыскага, Свіслацкага р-наў. 6.10. 1943 перапраўлена ў тыл ворага. Камандзіры І. Г. Пываразнюк, К. А. Груздзеў. Байцы групы пусцілі пад адхон 3 варожыя эшалоны, разбілі 11 аўтамабіляў, матацыклаў, узарвалі 7 чыг. і аўтамабільных мастоў, вадакачку ў г. п. Свіслач. Праводзіўся збор разведвальных даных пра дыслакацыю варожых гарнізонаў, перамяшчэнне яго войск і інш. 18.7.1944 група (23 чал.) злучылася з часцямі Чырв. Арміі.

**«ПАРТЫЗА́НСКАЯ ДУБІ́НКА»,** сатырычны лісток, выданне ЦК КП(б)Б (да ліст. 1942 выданне газ. *«За свабодную Беларусь»*). Выходзіў з 22.3.1942 да сак. 1943 на бел. мове ў прыфрантавой палосе (апошнія нумары выйшлі ў Маскве). Рэдактар І. Д. Гурскі. Сродкамі сатыры выкрываў фаш. акупантаў. Заклікаў сав. людзей да актыўнай барацьбы з ворагам. Змяшчаў сатырычныя вершы, байкі, памфлеты, карыкатуры. У выданні ўдзельнічалі П. Броўка, П. Глебка, К. Крапіва, П. Панчанка, К. Чорны і інш. бел. пісьменнікі, мастакі І. Ахрэмчык, Я. Зайцаў, У. Мінаеў і інш.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ ЗАСА́ДА,** загадзя замаскіраванае размяшчэнне партыз. падраздзяленняў з мэтай раптоўнага нападу на праціўніка; адзін з найбольш распаўсюджаных відаў баявых дзеянняў партызан Беларусі супраць ням.-фаш. акупантаў. З'яўлялася самастойным відам бою, аперацыі ці іх састаўной дапаможнай часткай. Загадзя спланаваная, непрыкметна размешчаная з улікам перавагі мясцовасці (лясы, яры, узвышшы, рэзкія павароты дарог і інш.), яна была эфектыўным сродкам барацьбы з праціўнікам на яго камунікацыях, спосабам нанясення ворагу параўнальна невял. сіламі, раптоўным і імклівым ударам усіх агнявых сродкаў максімальнага ўрону пры мінімальных, як правіла, асабістых стратах. З дапамогай П. з. нар. мсціўцы стрымлівалі наступленне карнікаў, вымушалі праціўніка да выгаднай для партызан змены напрамку гал. ўдару ці пераходу да абароны, забяспечвалі прыкрыццё сваіх аперацый на камунікацыях, разгром ням.-фаш. гарнізонаў. Партызаны дзейнічалі з засад, ратавалі сав. грамадзян ад знішчэння ці адпраўкі на катаржныя работы ў Германію, перашкаджалі вывозіць нарабаваную ворагам маёмасць, знішчалі прадстаўнікоў акупац. адміністрацыі, перакрывалі ворагу доступ у *партызанскія зоны.* Разам з іншымі відамі баявых дзеянняў, П. з. дэзарганізоўвалі варожы тыл і трымалі гітлераўцаў у пастаянным напружанні. Праводзіліся з першых месяцаў вайны.

У сярэдзіне ліп. 1941 Пінскі партыз. атрад пад камандаваннем В. З. Каржа (гл. ў арт. *Партызанская брыгада імя С. М. Будзённага* Пінскай вобл.) на дарозе г. п. Ленін — Жыткавічы абстраляў з засады калону фаш. самакатчыкаў, знішчыў яе камандзіра, некалькіх салдат і прымусіў гітлераўцаў да адступлення. Рух ворага на гэтай дарозе быў затрыманы на суткі. У пач. жніўня 1941 на гэтай жа дарозе П. з. ў складзе 15 байцоў з таго ж атрада знішчыла штабную машыну праціўніка з 15 афіцэрамі і салдатамі, якія знаходзіліся ў ёй, захапіла штабныя дакументы, пошту і зброю. Нар. мсціўцы ў гэтых засадах страт не мелі. Восенню 1941 група партызан, сярод якіх знаходзіўся сакратар Гомельскага падп. абкома КП(б)Б А. А. Куцак, на 14-м км шашы Гомель — Чарнігаў з засады (без асабістых страт) знішчыла 3 грузавыя аўтамашыны і

больш за 70 гітлераўцаў. Паводле даных штаба аховы тылу групы ням. армій «Цэнтр» на тэр. Беларусі з 1.7 да 18.11. 1942 падраздзяленні вермахта 90 разоў траплялі пад агонь П. з. і неслі цяжкія страты; за гэты ж перыяд партызаны знішчылі і пашкодзілі з засад 161 аўтамашыну і вывелі са строю 646 салдат і афіцэраў праціўніка.

З пашырэннем партыз. руху, захопу партызанамі баявой ініцыятывы на камунікацыях змяняўся і маштаб удараў з засад. Партызаны перайшлі да нападу з засад на буйныя калоны праціўніка.

Зімой 1943 атрад «Смерць фашызму» партыз. брыгады «Стары» з П. з. на дарозе паміж Жодзінам і Барысавам знішчыў 80 фашыстаў, падарваў і спаліў 2 танкі і 22 аўтамашыны. Партызаны атрада імя Суворава партыз. брыгады імя Сталіна (Баранавіцкая вобл.) 21.2.1943 на дарозе Іўе — Юрацішкі знішчылі з засады 12 аўтамашын і 37 гітлераўцаў. Паводле няпоўных даных партызаны Беларусі ў 1943 з засад і на мінах знішчылі і пашкодзілі каля 8 тыс. аўтамашын гітлераўцаў, больш за 500 танкаў і бронемашын.

Яшчэ больш эфектыўнымі сталі П. з. ў перыяд выгнання ням.-фаш. захопнікаў з тэр. Беларусі. Партызаны перакрывалі ворагу шляхі адступлення, заганялі яго ў «катлы», бралі ў палон цэлымі падраздзяленнямі ці знішчалі.

27.6.1944 партызаны Рагачоўскай ваенна-аператыўнай групы дзейнічалі з засады, 3 ротамі спынілі прасоўванне 14-й пях. дывізіі праціўніка па маршруце в. Гоенка — в. Козел Круглянскага р-на і прымусілі праціўніка змяніць маршрут. У выніку асн. сілы дывізіі былі загнаны партызанамі ў «кацёл». Агнём з засады партызаны знішчылі ўзвод кавалерыі, каля 2 рот пяхоты, пашкодзілі 15 аўтамашын. Партыз. брыгада «Чырвоны сцяг», дзейнічаючы з засад, з 22 да 30.6.1944 знішчыла 20 аўтамашын і каля 500 гітлераўцаў. У чэрв. 1944 у засаду партыз. брыгады імя А. Ф. Данукалава трапіў 601-ы полк 201-й ахоўнай дывізіі, які лютаваў у час карных аперацый. Партызаны поўнасцю знішчылі фашыстаў. *У. С. Пасэ.*

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ КОНТРРАЗВЕ́ДКА,** сістэма розных мер процідзеяння падрыўной рабоце спецслужбаў гітлераўцаў з мэтай забеспячэння бяспекі партызанскіх фарміраванняў і стварэння ўмоў для іх выніковай дзейнасці. Асноўныя кірункі яе дзейнасці — ахова партыз. фарміраванняў ад пранікнення варожай агентуры, выяўленне і выкрыццё яе ў *партызанскіх зонах*, выяўленне правакатараў і здраднікаў у населеных пунктах, якія кантраляваў праціўнік. П. к. аказвала таксама дапамогу ў прадухіленні і спыненні дзеянняў шпіёнаў і дыверсантаў, якіх закідвалі ў размяшчэнне часцей Чырв. Арміі і ў сав. тыл. Кіраўніцтва барацьбой партызан супраць ням.-фаш. спецслужб ажыццяўлялі падп. парт. камітэты і камуністы, якія працавалі ў органах П. к.

У сваёй дзейнасці П. к. кіравалася патрабаваннямі, якія выказаны ў загадах наркома абароны СССР ад 5.9.1942 «Аб задачах партызанскага руху» і ад 19. 4.1943 «Аб паляпшэнні разведработы ў партызанскіх атрадах», а таксама ў пастановах V Пленума ЦК КП(б)Б (Масква, 26—28.2. 1943) і ЦК КП(б)Б ад 23.4.1943 аб узмацненні разведвальнай і контрразведвальнай работы ў партыз. атрадах Беларусі. Пленум ЦК КП(б)Б патрабаваў ад камандавання партыз. фарміраванняў і кіраўнікоў падп. парт. органаў шырэй паставіць умелую і кваліфікаваную партызанскую разведку і контрразведку, прадухіліць правакацыі і пранікненне ў партыз. рады варожых агентаў. Для арганізацыі гэтай работы бюро ЦК КП(б)Б было прапанавана накіраваць у буйныя партыз. брыгады і парт. цэнтры падрыхтаваных чэкістаў і разведчыкаў. Вясной — летам 1943 ва ўсе вобласці Беларусі былі накіраваны камуністы-афіцэры з вял. вопытам, якія разам з падп. абкомамі партыі арганізавалі ў атрадах і брыгадах разведвальную і контрразведвальную работу. Рашэннем ЦК КП(б)Б ад 23.4.1943 ва ўсіх брыгадах і атрадах былі ўведзены пасады намеснікаў камандзіраў па разведцы.

Структура П. к. складалася, як правіла, у форме асобых аддзелаў ці апарата намеснікаў камандзіраў па разведцы партыз. фарміраванняў. Усяго на Беларусі дзейнічала 213 брыгад, з іх у 112 былі намеснікі камандзіраў па разведцы, у большасці іншых — асобыя аддзелы, у некаторых з іх — тыя і другія.

Ням.-фаш. акупанты ўсімі сродкамі спрабавалі ліквідаваць нар. барацьбу, устанавіць паўсюдна ваенна-каланіяльны «новы парадак». Толькі ў першы перыяд вайны на тэр. Беларусі дзейнічалі: 4 разведвальныя, 3 дыверсійна-тэрарыстычныя і 9 контрразведвальных абвергруп, асобная абвергрупа «Мінск», што была падначалена абверкамандзе «Остланд», а таксама 8 груп тайнай палявой паліцыі (ГФП), якая разгарнула 20 перыферыйных каманд. Сачэнне і крывавыя расправы над сав. патрыётамі вялі таксама ўпраўленне паліцыі бяспекі і службы бяспекі (СД), служба парадку (ОД). У 1942 у 10 абласцях генеральнай акругі «Беларусь» былі арганізаваны 44 апорныя пункты СД. Ням.-фаш. службы разлічвалі на прыцягненне да шпіёнскай і дыверсійнай дзейнасці перш за ўсё асоб, якіх «пакрыўдзіла» сав. ўлада, розных антысав. падонкаў, крымінальных элементаў і здраднікаў. Пры вярбоўцы агентуры гітлераўцы шырока выкарыстоўвалі каварныя і жорсткія метады і прыёмы, якія практыкаваліся імі ў Германіі і ў захопленых краінах Еўропы: правакацыя, шантаж, пагроза, насілле, сістэма заложніцтва, падман. Органы ням.-фаш. разведкі стварылі на Беларусі 25 стацыянарных школ і кароткатэрміновых курсаў для падрыхтоўкі і закідкі ў тыл Чырв. Арміі і партыз. атрады шпіёнаў і тэрарыстаў. Ням.-фаш. разведка стварала лжэпартыз. атрады, якія рабавалі і забівалі мясцовых жыхароў. Актыўную дапамогу акупантам у барацьбе з сав. патрыётамі аказвалі бел. буржуазныя нацыяналісты. Так званая *«Беларуская народная самапомач»* («БНС»), створаная ў кастр. 1941, шырока выкарыстоўвалася для вярбоўкі спецслужбамі шпіёнаў і правакатараў для выяўлення падпольшчыкаў і партызан. Пад шыльдай «народных дамоў» функцыяніравалі разведвальныя школы, супрацоўнікамі гітлераўскай разведкі вялася вярбовачная работа.

У складаных умовах пач. вайны Камуніст. партыя і органы Сав. улады правялі шэраг мерапрыемстваў, накіраваных на абучэнне сав. патрыётаў асновам канспірацыі і контрразведкі. ЦК КП(б)Б і яго ваенна-аператыўныя органы рыхтавалі на працягу ўсяго перыяду акупацыі спецыялістаў па пытаннях партыз. барацьбы, якія валодалі таксама навыкамі разведвальнай і контрразведвальнай работы.

13.7.1941 створаны Аператыўна-навучальны цэнтр Зах. фронту, дзе разам з інш. дысцыплінамі выкладаліся асновы барацьбы з варожымі спецслужбамі і правілы канспірацыі. На працягу лета 1941 у партыз. школе гэтага цэнтра прайшло падрыхтоўку каля 1500 чал. Паводле няпоўных даных да крас. 1942 партызаны Беларусі выявілі і знішчылі больш за 600 шпіёнаў, здраднікаў, правакатараў і паліцэйскіх.

Вял. працу па падрыхтоўцы кваліфікаваных кадраў разведчыкаў і контрразведчыкаў правялі ЦШПР і БШПР. Спецшкола № 3 ЦШПР у 1942 рыхтавала сувязных-разведчыкаў. У канцы 1942 у сістэме ЦШПР пачала дзейнічаць цэнтр. школа намеснікаў камандзіраў па разведцы (школа № 105). У 1943 ёю было падрыхтавана 296 чал., у т. л. для Беларусі 130. У школе БШПР, якая працавала з 15.12.1942 да 15.9.1943, прайшлі навучанне і накіраваны ў тыл ворага 90 разведчыкаў, з 18.9.1943 да 1.1.1944 у навучальна-рэзервовым пункце БШПР падрыхтавана яшчэ 32 разведчыкі. Курсанты спецшкол атрымалі патрэбныя веды па метадах і формах контрразведвальнай работы. Усе яны былі камуністамі і камсамольцамі. Аднак пры пашырэнні партыз. руху ў 1943—44 большую частку кадраў П. к. знаходзілі на месцы. Паводле ўказанняў БШПР камандаванне ўсіх партыз. фарміраванняў падабрала каля 2 тыс. чал. спецыялістаў на кіруючую работу ў П. к. і разведку. У 1943 для цэнтралізацыі контрразведвальнай работы ў маштабе абл. партыз. злучэнняў пры ўсіх падп. абкомах партыі былі створаны аператыўна-чэкісцкія групы, падначаленыя сакратарам абкомаў, якія з'яўляліся, як правіла, і камандзірамі злучэнняў. Адзіным цэнтрам па кіраўніцтву П. к. сталі разведвальныя аддзелы ЦШПР і БШПР, якія займаліся разам з арганізацыяй разведкі пытаннямі барацьбы з варожай агентурай. Яны былі ўкамплектаваны чэкістамі, ваен. разведчыкамі і контрразведчыкамі.

Падтрымка з боку пераважнай большасці мясцовага насельніцтва, высокая ступень пільнасці, таварыскі ўзаемны кантроль, добраахвотны парадак уступлення ў партызаны, ацэнка чалавека па яго справах — усё гэта дапамагала П. к. ў барацьбе з ням.-фаш. разведкай, у выяўленні і затрыманні варожых агентаў. З паляпшэннем арганізацыі П. к. і яе пашырэннем з года ў год павышалася яе эфектыўнасць. Многія з актыўных пасобнікаў ворага пасля вайны панеслі заслужанае пакаранне, выяўлена больш за 5 тыс. фаш. агентаў, захоплены і вывезены ў сав. тыл да 100 буйных гітлераўскіх шпіёнаў, пасланы папярэджанні аб тым, што ў сав. тыл закінуты 122 агенты з указаннем прозвішчаў, прыкмет, заданняў і раёна выкідкі.

Поспехі партызан у працяглай барацьбе з ням.-фаш. спецслужбамі на Беларусі былі падрыхтаваны дзейнасцю парт., дзярж. органаў, камандавання партыз. фарміраванняў па падборы, навучанні, расстаноўцы патрэбных кадраў, выпрацоўцы прынцыпаў арганізацыі, тлумачыліся мужнасцю і бязмежнай вернасцю Радзіме працаўнікоў П. к. *В. К. Кісялёў.*

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ МАСТА́ЦКАЯ САМАДЗЕ́ЙНАСЦЬ.** Шырока распаўсюджана на Беларусі ў гады Вял. Айч. вайны. У партыз. атрадах, брыгадах, на тэр. партыз. зон ствараліся і дзейнічалі самадзейныя агіткалектывы. Яны адыгрывалі важную ролю ў выхаванні патрыятызму, паліт. свядомасці партызан і насельніцтва на часова акупіраванай ням.-фаш. захопнікамі тэрыторыі, мабілізоўвалі на барацьбу з ворагам. У выступленні ўключаліся паліт. інфармацыі — чытанне зводак Саўінфармбюро і паведамленні аб палажэнні на франтах. У складзе агіткалектываў былі чытальнікі, хор і спевакі-салісты, інструменталісты і аркестры, танцавальныя групы. У праграмах канцэртаў — сольныя і харавыя спевы, мастацкае чытанне, музычныя, танцавальныя і акрабатычныя нумары. Выконваліся песні нар. і папулярныя сав. кампазітараў, партыз. песні, частушкі, прыпеўкі, куплеты, байкі, вершы, пародыі, фельетоны, казкі, прыказкі, апавяданні, сатырычныя сцэнкі, паліт. клаунада, літаратурна-музычныя мантажы, урыўкі з п'ес («Фронт» А. Карнейчука і інш.), інсцэніроўкі («Як гартавалася сталь» М. Астроўскага і інш.), укр. камічныя оперы («Наталка-Палтаўка» І. Катлярэўскага, музыка М. Лысенка), тэатралізаваныя кампазіцыі (напр., «Песні дружбы народаў» у агітатрадзе імя М. Горкага). Нярэдка песні, частушкі, пародыі, фельетоны ствараліся непасрэдна ў партыз. калектывах.

Першыя агіткалектывы паявіліся ўжо ў 1941: у канцы вер. адбыўся канцэрт у Гомельскім партыз. атрадзе. У 1942 іх дзейнасць значна актывізавалася. Напр., за ліст. 1942 група ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці ў партыз. брыгадзе «Няўлоўныя» на тэр. Віцебскай вобл. дала 39 канцэртаў. На базе невял. самадзейных гурткоў атрадаў ствараліся агіткалектывы брыгад, злучэнняў.

У 1942 агіткалектывы дзейнічалі ў партыз. брыгадах: 1-й Мінскай — на тэр. Чэрвеньскага, Пухавіцкага, Рудзенскага і Смалявіцкага р-наў (створаны на базе самадзейнасці партыз. атрада А. І. Дрантусава, кіраўнік — б. педагог Бел. кансерваторыі С. С. Маркоўскі); «Дзядзькі Колі» Мінскай вобл. — пераважна ў Барысаўскім р-не, выязджаў у Бягомльскі, Лагойскі, Плешчаніцкі і Смалявіцкі р-ны (створаны на базе Бараўлянскай камсам.-маладзёжнай падп. арг-цыі, кіраўнік — камісар атрада імя І. В. Сталіна Дз. Ф. Капыткоў, б. журналіст, сельскі музыкант); імя С. М. Кірава Пінскага партыз. злучэння — на тэр. Лунінецкага і Пінскага р-наў (створаны на базе самадзейнасці 1-й роты атрада імя Кірава, кіраўнік — М. М. Балашоў); пры штабе Мінскага партыз. злучэння — на тэр. Любанскага р-на (створаны на базе самадзейнасці мясцовых атрадаў, Жыткавіцкай пагранзаставы і агіткалектыву камсам.-маладзёжнага дыверсійнага атрада імя М. Ф. Гастэлы, ён складаўся з прафесійных і самадзейных акцёраў, які ўзначальваў б. акцёр Гомельскага рус. абл. тэатра А. Цітоў; кіраўнікі новага калектыву — самадзейны кампазітар А. Ф. Вешаў і палітрук Г. М. Шчарбатаў); у Магілёўскай вобл. ў партыз. атрадах 227-м — на тэр. Клічаўскага р-на (кіраўнік — медсястра Н. А. Царэшка) і 760-м (з вер. 1943 брыгада) імя М. Беразоўскага (кіраўнікі — радыст, самадзейны кампазітар і баяніст М. А. Быкадораў і палітработнік, б. журналіст і паэт Л. К. Высоцкі; салісткай нярэдка выступала партызанка з суседняга 122-га партыз. палка «За Радзіму» Л. Мацісава, потым заслужаная артыстка БССР), а таксама ў 537-м партыз. палку — на тэр. Кіраўскага, Клічаўскага, Быхаўскага, Бабруйскага і Асіповіцкага р-наў (кіраўнік — камандзір 1-га батальёна Я. Р. Акушэвіч).

У 1943 партыз. мастацкая самадзейнасць набывае масавы характар. Амаль ва ўсіх буйных асобных партыз. атрадах і брыгадах існавалі калектывы мастацкай самадзейнасці: гурткі, агіткалектывы, агітатрады, мастацкія ансамблі, ансамблі песні і танца, джаз-аркестры і інш.

Дзейнічалі агіткалектывы ў партыз. брыгадах: 12-й кав. імя Сталіна — на тэр. Мінскай, Магілёўскай, Пінскай і Палескай абл.; 300-й імя К. Я. Варашылава Мінскай вобл. — на тэр. Капыльскага, Уздзенскага, Дзяржынскага і Чырвонаслабодскага р-наў Мінскай вобл. і Нясвіжскага р-на Баранавіцкай вобл. (створаны на базе самадзейнасці партыз. атрада «Патрыёт Радзімы», кіраўнік — самадзейны кампазітар П. І. Шыдлоўскі); імя газеты «Праўда» — на тэр. Чэрвеньскага р-на (створаны на базе мастацкай самадзейнасці партыз. атрада імя газеты «Правда» па прапанове камісара атрада Дз. Захаранкі, кіраўнікі — І. А. Хвастуноў і А. Шут) і «Полымя» — на тэр. Пухавіцкага р-на (кіраўнікі — у мінулым самадзейная паэтэса Я. І. Крайнік і прафесійны музыкант, кампазітар І. А. Мыртынюк) Мінскай вобл.; «Аляксея» (з мая 1944 А. Ф. Данукалава) — на тэр. Смаленскай, Віцебскай і Вілейскай абл., абслугоўвала брыгады Полацка-Лепельскай партыз. зоны і мясцовае насельніцтва (кіраўнік і ініцыятар арганізацыі — нач. аддзела прапаганды брыгады, б. карэспандэнт абл. падп. газеты «Віцебскі рабочы» В. І. Сіманава); імя С. М. Кароткіна — на тэр. Сіроцінскага, Полацкага, Ушацкага і Расонскага р-наў (джаз-ансамбль створаны пераважна на базе самадзейнасці, кіраўнік — б. ветэрынар М. А. Быкаў — Мікалай Джазаў, які аб'ядноўваў асобныя нумары вершаваным канферансам) Віцебскай вобл.; імя Г. К. Жукава — на тэр. Браслаўскага і Міёрскага р-наў Вілейскай вобл. (кіраўнікі — Е. А. і П. Р. Казлоўскія, літработнікі партыз. газет); у атрадзе імя Жукава брыгады імя В. І. Чапаева — на тэр. Брэсцкай і Беластоцкай абл., у крас. 1944 выступіў з урачыстым канцэртам на 1-й камсам. канферэнцыі партыз. атрадаў і брыгад Беластоцкага партыз. злучэння (кіраўнікі — самадзейны музыкант Г. Джарты і паэт, журналіст А. Худзякоў).

Вял. папулярнасцю сярод насельніцтва і партызан Вілейскай вобл. карыстаўся агітатрад імя М. Горкага, вядомы як Вілейскі партыз. ансамбль (створаны ў снеж. 1943 — студз. 1944 на базе самадзейнага ансамбля партыз. атрада імя М. І. Кутузава партыз. брыгады імя К. Я. Варашылава, мастацкі кіраўнік і камісар артада А. С. Нікалаеў). Літаратурна-музычны мантаж ансамбля «Мы помсцім» у 1944 быў паказаны ў многіх гарадах Беларусі — Вілейцы, Смаргоні, Свіры, Ашмянах, Паставах, Маладзечне, Мінску, а ў жн. 1945 у Маскве. Пасля вызвалення Беларусі ансамбль стаў прафесійным. Карысталася папулярнасцю і агітбрыгада мастацкай самадзейнасці пры Лідскім партыз. злучэнні, т. зв. Лідскі партыз. тэатр, які выступаў на тэр. Іўеўскага, Карэліцкага, Лідскага і Навагрудскага р-наў (мастацкія кіраўнікі — Я. Д. Гапееў, М. І. Шчансновіч — ён жа аўтар большасці тэатралізаваных кампазіцый, камедый-памфлетаў, Г. Ананьева, аўтар скетчаў, баек, мантажоў, прыпевак).

Гурткі мастацкай самадзейнасці ствараліся і сярод насельніцтва партыз. зон. Напр., такі гурток арганізавала настаўніца М. Васілевіч у в. Карпілаўка Лагойскага р-на Мінскай вобл., дзе дзейнічала партыз. брыгада «Штурмавая».

Акрамя названых, агіткалектывы дзейнічалі таксама: у партыз. брыгадах — «Буравеснік», «Жалязняк», «Разгром», 1-й Антыфашысцкай і 37-й імя А. Я. Пархоменкі Мінскай вобл.; 19-й імя В. М. Молатава, імя Сталіна і імя Ленінскага камсамола Баранавіцкай вобл.; 1-й імя К. С. Заслонава (кіраўнік — камісар атрада «Дзядзька Косця» А. З. Кардоўская) і 16-й Смаленскай Віцебскай вобл.; імя Л. М. Даватара Вілейскай вобл.; 8-й Рагачоўскай і «Бальшавік» Гомель-

скай вобл.; імя У. І. Леніна і імя С. М. Будзённага Пінскай вобл.; 225-й Палескай вобл.; у партыз. атрадах — «Баявы» імя Дунаева Беластоцкай вобл.; імя Кутузава 2-й Мінскай брыгады (маст. кіраўнік Р. Дзідзенка), імя А. В. Суворава 225-й брыгады імя Суворава, імя Чапаева і імя М. А. Шчорса 27-й брыгады імя Чапаева Мінскай вобл.; 752-м 1-й Бабруйскай брыгады Магілёўскай вобл.; у палках — 810-м Магілёўскай вобл. і 122-м «За Радзіму» атрада «За Радзіму» брыгады імя Кірава Пінскай вобл.

**ПАРТЫЗА́НСКАЯ РАЗВЕ́ДКА,** мэтанакіраваны збор, апрацоўка і перадача зацікаўленым дзярж. і ваен. органам ваен., эканаміч. і палітыч. інфармацыі аб праціўніку; адна з форм дапамогі Чырв. Арміі і адзін з неабходных відаў забеспячэння баявой дзейнасці партызан. Праводзілася як аддзяленнямі, узводамі, ротамі разведкі, спецыяльна створанымі ў складзе партыз. фарміраванняў (у 1944 налічвалі да 10 % асабовага складу партызан), так і сувязнымі, падпольшчыкамі і інш. сав. патрыётамі, якія ўкараняліся ў акупацыйныя органы, вайсковыя фарміраванні, службы разведкі і контрразведкі гітлераўцаў, на прадпрыемствы, транспарт і сувязь акупантаў. Колькасць партыз. агентурных разведчыкаў хутка расла: у 1942 у тыле ворага дзейнічалі 5150 патрыётаў, да канца 1943 — больш за 8 тыс., да ліп. 1944 — 24 тыс.

Значную ролю ў станаўленні і развіцці сістэмы П. р. адыгралі пастановы ЦК ВКП(б) ад 18.7.1941 «Аб арганізацыі барацьбы у тыле германскіх войск», загады наркома абароны СССР ад 5.9.1942 «Аб задачах партызанскага руху» і ад 19.4.1943 «Аб паляпшэнні разведработы ў партызанскіх атрадах», пастановы ЦК КП(б)Б ад 18.7.1941 аб становішчы разведвальнай работы ў тыле праціўніка і ад 24.4.1943 аб узмацненні разведвальнай і контрразведвальнай работы ў партыз. атрадах Беларусі. V Пленум ЦК КП(б)Б (26—28.2.1943, Масква) дэталёва прааналізаваў дасягненні і недахопы разведвальнай службы нар. мсціўцаў і ў сваёй пастанове адзначыў: «Неабходна рашуча ўзмацніць разведвальную работу ў дапамогу Чырвонай Арміі, паведамляць аб прасоўванні часцей, расшыфроўваць усю абарончую сетку праціўніка вакол гарадоў і на рубежах». Выконваючы рашэнні Пленума, партызаны актывізавалі разведку ў інтарэсах Чырв. Арміі. Толькі з кастр. да канца 1943 бел. партызаны падалі камандаванню сав. войск даныя аб 338 аэрадромах і пасадачных пляцоўках, 871 складзе, 152 прадпрыемствах праціўніка, што выраблялі ваен. прадукцыю і інш. П. р. кіравалі *Паўночна-Заходняя аператыўная група ЦК КП(б)Б*, разведвальныя аддзелы ЦШПР і БШПР, аператыўныя групы і прадстаўніцтва БШПР пры штабах франтоў, разведвальныя органы партыз. фарміраванняў. Намеснікам начальніка ЦШПР па разведцы быў член ЦК КП(б)Б С. С. Бельчанка, намеснікам начальніка БШПР па разведцы — член ЦК КП(б)Б І. П. Ганенка.

У партыз. фарміраваннях разведвальны орган, як правіла, узначальваў намеснік камандзіра па разведцы ці начальнік (упаўнаважаны) асобага аддзела. У 10 абл. разведвальных органах пры падп. абкомах і 213 партыз. брыгадах у 1943—44 працавалі 271 чалавек, у 1255 партыз. атрадах — 927 чал. Колькасць разведвальных органаў у партыз. брыгадах, палках і атрадах вырасла з 72 амаль да 300, а да лета 1944 дасягнула 1200. Расла і колькасць камуністаў у іх. Калі ў лютым 1943 камуністы складалі 42 % усяго разведвальнага апарата, то да лета 1944 — 62 %. Разведінфармацыя перадавалася праз сувязных па радыё і авіясувязі ў цэнтр. органы кіравання на Вял. зямлю.

П. Р. забяспечвала баявыя аперацыі партызан пры разгроме гарнізонаў, ударах па транспартных камунікацыях, адбіцці карных аперацый гітлераўцаў. Усяго за 1941—44, выкарыстоўваючы даныя П. р., нар. мсціўцы разграмілі 948 ням.-фаш. штабоў і гарнізонаў і знішчылі 939 ваен. складоў акупантаў. Дзякуючы рабоце разведкі, амаль 100 праведзеных гітлераўцамі на акупіраванай тэр. рэспублікі буйных карных аперацый не змаглі поўнасцю ці хоць часткова задушыць партыз. рух. За 3 гады вайны партызаны, маючы неабходную інфармацыю, пусцілі пад адхон 11 128 эшалонаў і разбурылі 819 чыг. мастоў.

П. р. Беларусі аказвала дапамогу сав. войскам. У вер. 1941 партызаны здабылі даныя аб сканцэнтраванні буйных танк. і авіяц. сіл. праціўніка для наступлення на Маскву і аб прыблізных тэрмінах яго пачатку. У жн. 1942 яны перадалі звесткі аб перакідцы арміі Манштэйна з-пад Севастопаля ў раён Ленінграда для правядзення рашаючага штурму горада, а праз месяц — пра асн. палажэнні наступальнага плана камандавання вермахта на восень 1942 і месцазнаходжанне стаўкі Гітлера пад Вінніцай. У 1943 праз партызан атрымана інфармацыя аб актыўнай падрыхтоўцы нацыстамі хімічнай вайны, захоплены ўзоры новых атрутных рэчываў і сродкаў абароны, устаноўлены на Беларусі месцы дыслакацыі 12 складоў з хімічнай зброяй масавага знішчэння. П. р. загадзя перадала даныя аб маючым адбыцца наступленні гітлераўскіх войск у раёне Арла, Курска, аб плане контрудару групоўкі фашыстаў з 7 танк. і 4 пях. дывізій на Палессі і ў раёне Кіева, замаху на І. В. Сталіна, Ф. Д. Рузвельта, У. Чэрчыля, які рыхтаваўся ў Тэгеране. Пад кіраўніцтвам камуніста В. І. Гурыновіча, нач. службы разведкі 18-й імя Фрунзе партыз. брыгады, здабыты звесткі аб сакрэтнай зброі ворага — самалётах-снарадах і ракетах (ФАУ-1 і ФАУ-2). Каштоўныя даныя сабраны ў 1944 аб работах у Германіі над рэактыўным знішчальнікам і месцах яго доследнай вытворчасці, аб выпрабаваннях гранатамёта маркі «Фаўстгранат-43» (у выніку масавае выкарыстанне гітлераўцамі фаўстпатронаў не застала знянацку сав. наступаючыя танк. часці на Беларусі), аб вопытах з кіруючымі па радыё танкеткамі, якія былі начынены ўзрыўчаткай, аб перакідцы з Беларусі і інш. акупіраваных раёнаў СССР на Украіну да 25 дывізій праціўніка, што ўказвала на пэўнае аслабленне групы армій «Цэнтр» да чэрв. 1944 і было ўлічана пры падрыхтоўцы і правядзенні Беларускай аперацыі 1944. П. р. толькі са студз. да чэрв. 1944 выявіла і пацвердзіла дыслакацыю 1,8 тыс. варожых гарнізонаў, штаба групы армій «Цэнтр», 5 армейскіх штабоў, больш за 100 штабоў карпусоў і дывізій. Зімою 1943 захоплены ў палон разведчыкамі Магілёўскага партыз. злучэння ням. афіцэр (па адукацыі фізік) паведаміў некаторыя звесткі аб рабоце, якая праводзілася ў Германіі над «звышбомбай» (атамнай зброяй).

П. р. дзейнічала ў неймаверна цяжкіх умовах, у смяротна апасным проціборстве з каварным праціўнікам. Каля 6 тыс. партыз. разведчыкаў і сувязных загінула пры выкананні адказных заданняў. У памяці народнай вечна будуць жыць імёны разведчыкаў Герояў Сав. Саюза Г. І. *Маслоўскай,* М. А. *Міхайлашава,* В. З. *Харужай,* У. А. *Хамчаноўскага,* М. *Тапівалдыева* і шмат іншых.

*В. К. Кісялёў.*

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д,** асноўная арганізацыйная і баявая адзінка партызан, добраахвотна аб'яднаных для барацьбы за вызваленне Радзімы ад іншаземных захопнікаў або ўнутранай рэакцыі; форма арганізацыі партыз. сіл, якая склалася гістарычна. У барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў даказаў сваю баяздольнасць, жыццеўстойлівасць і мэтазгоднасць.

На Беларусі за ўвесь перыяд акупацыі дзейнічала 1255 партыз. атрадаў. Узначальвалі атрад камандзір і камісар. Апрача нач. штаба і яго апарату, камандзір атрада меў намеснікаў па разведцы, дыверсіях, памочніка па забеспячэнню з адпаведнымі падраздзяленнямі. У П. а. былі пярвічныя парт. і камсам. арг-цыі. У перыяд арганізацыі і станаўлення атрады мелі па 25—70 партызан, дзяліліся на 2—3 баявыя групы. Тыповая структура атрада блізкая да структуры рэгулярных войск: штаб, 3—4 роты, па 3 узводы ў кожнай, з 3 аддзяленнямі ва ўзводзе. У атрадзе фарміраваліся баявыя дыверсійныя групы (1—2), падраздзяленні баявога забеспячэння і матэрыяльнага абслугоўвання. Колькасны і баявы склад атрада непастаянны. БШПР адрозніваў атрады па 100—150, 151—350, 351 і больш партызан з адпаведнай колькасцю асн. стралк. і цяжкай зброі. Буйны П. а. мог самастойна ці ў складзе злучэння вырашаць задачы ў розных відах баявых партыз. дзеянняў, пры адпаведных умовах разгортваўся ў *партызанскую брыгаду.* З жн. 1943 асобныя атрады Магілёўскай вобл., у якіх было 800 і больш партызан

і належная колькасць асн. стралк. і цяжкай зброі, разгортваліся ў *партызанскія палкі.*

Паводле прызначэння П. а. падзяляліся на звычайныя (унітарныя), спецыяльныя (дыверсійна-разведвальныя), кавалерыйскія, артылерыйскія, штабныя, рэзервовыя, мясцовыя самаабароны, маршавыя. Першыя П. а. называліся паводле месца дыслакацыі, прозвішча або псеўданіма камандзіра, пазней ім надаваліся імёны вядомых палкаводцаў, паліт., ваен., дзеячаў Сав. дзяржавы, герояў грамадз. вайны, партызан, што загінулі. Часам назвы адлюстроўвалі патрыятычныя і баявыя матывы, паліт. накіраванасць у барацьбе («Радзіма», «Штурм», «За Савецкую Беларусь», «Смерць фашызму» і інш.). Многія атрады мелі нумарныя абазначэнні. Баявой і паліт.-масавай работай атрада кіравала разам з камандзірам і камісарам пярвічная парт. арг-цыя. Пра асобна дзейныя П. а. на Беларусі гл. адпаведныя артыкулы *А. Л. Манаенкаў, Д. З. Мурыеў, В. А. Пеp ажогін.*

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 1-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Шклоўскага, Бялыніцкага, Круглянскага, Талачынскага і Лепельскага р-наў.

Створаны ў сак. 1942. З мая 1942 у брыгадзе «Чэкіст», з жн. 1943 асобны атрад Шклоўскай ВАГ. Камандзіры Г. А. *Кірпіч,* Р. С. Іваноў, камісары П. І. Шчаслаўскі (загінуў), М. М. Данілаў.

Партызаны наносілі ўдары на чыг. Барысаў—Орша, Орша—Шклоў. 22.6.1942 удзельнічалі ў разгроме карнікаў каля в. Дымава Шклоўскага р-на. 28.2.1943 каля в. Рудня Лепельскага р-на адбілі 3 атакі карнікаў і не дапусцілі іх у размяшчэнне брыгады «Чэкіст». У жн. 1943 на ўчастку Орша—Шклоў падарвалі больш за 60 рэек. 3.10.1943 удзельнічалі ў знішчэнні варожага гарнізона ў в. Прыгані Круглянскага р-на (гл. *Прыганінскі бой 1943*). 28.6.1944 атрад наносіў удары па ворагу, які адступаў па дарозе Шапялевічы — Сомры. 29.6. 1944 атрад (485 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 2-і.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Шклоўскага, Прапойскага, Чэрыкаўскага, Краснапольскага і інш. р-наў.

Створаны ў вер. 1942. Камандзіры Ф. І. Чабыкін, Я. П. Кірылаў; камісары Кірылаў, С. З. Праскурын. У ліст. 1942—сак. 1943 дзейнічаў у складзе групы атрадаў М. М. Іванова.

Партызаны праводзілі аперацыі на чыг. участках Пагодзіна—Сураж, Магілёў—Крычаў і на прылеглых да іх шашэйных і грунтавых дарогах. Толькі ў студз. 1943 на чыг. участку Крычаў—Сураж падарвалі 3 эшалоны. 29.9.1943 атрад (97 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 2-і ХО́ЦІМСКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Хоцімскага, Касцюковіцкага, Клімавіцкага р-наў БССР і Клятнянскага р-на Арлоўскай вобл. Створаны ў кастр. 1941 у Хоцімскім р-не. Камандзіры Л. У. Казакоў (загінуў), Б. М. Уткін; камісар А. Г. Макагонаў. У баі з карнікамі ў ліп. 1942 атраду прычынены цяжкія страты. 28.8.1942 атрад уліўся ў брыгаду «Уперад», з лета 1943 дзейнічаў самастойна. 1.10.1943 атрад (54 партызаны) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 3-і.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Шклоўскага, Горацкага, Дрыбінскага, Крычаўскага і Чачэрскага р-наў.

Створаны ў вер. 1942, з кастр. ў складзе групы атрадаў М. М. Іванова, з сак. 1943 дзейнічаў самастойна, з жн. ў Паўн.-Усх. ВАГ Магілёўскай вобл. Камандзір І. В. Кананыхін, камісар Я. І. Мартыненка.

Партызаны грамілі варожыя гарнізоны, у т. л. ў в. Целяшы Прапойскага, Бакунавічы Чэрыкаўскага р-наў і інш. 2.10.1943 атрад (214 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 5-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Шклоўскага, Бялыніцкага, Круглянскага, Лепельскага, Талачынскага і Аршанскага р-наў.

Створаны ў чэрв. 1942 у брыгадзе «Чэкіст», з жн. 1943 асобны атрад Шклоўскай ВАГ. Камандзір А. Ф. Сімдзянкін; камісары І. Я. Кунгурцаў, С. М. Ельковіч (загінуў), Ф. І. *Букштынаў,* С. А. Крэнеў, С. П. Саўчанка.

Партызаны наносілі ўдары на чыг. Барысаў—Орша, Орша—Шклоў. 22.6.1942 каля в. Дымава Шклоўскага р-на ўдзельнічалі ў разгроме карнікаў. У жн. 1943 знішчылі больш за 100 рэек. З мая 1943 да мая 1944 на участку чыгункі Прыяміна—Кохanава падарвалі 33 эшалоны, на ст. Талачына спалілі склад з боепрыпасамі. У маі і кастр. 1943 грамілі варожыя гарнізоны ў в. Клімавічы Шклоўскага, Прыгані Круглянскага р-наў (гл. *Прыганінскі бой 1943*). 28.6.1944 знішчалі ворага, які адступаў па дарозе Шапялевічы—Сомры.

29.6.1944 атрад (362 партызаны) злучыўся з Чырв. Арміяй. Камандзіру групы разведкі М. *Тапівалдыеву* прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 8-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Круглянскага, Крупскага, Талачынскага р-наў.

Створаны ў маі 1942. З чэрв. 1942 у брыгадзе 8-й Круглянскай, з жн. 1943 асобны атрад Круглянскай ВАГ. Камандзіры Дз. А. Кулікаў, І. Г. *Ільін,* М. А. Сакалоў; камісары К. І. Мацеж, Ц. М. Кавецкі, М. Ф. Навоеў (загінуў), Ф. С. Старавойтаў.

Партызаны праводзілі аперацыі на чыгунцы Талачын—Барысаў, на шашы Мінск — Магілёў. 28.8.1942 удзельнічалі ў разгроме чыг. ст. Слаўнае (гл. *Слаўнянская аперацыя 1942),* у вер. і снеж. 1942, ліп. і вер. 1943 — варожых гарнізонаў у в. Дзянісавічы Крупскага, Шапялевічы Круглянскага, Алешкавічы Бялыніцкага р-наў (гл. *Бялыніцкія аперацыі 1943*). Вялі баі з карнікамі, у т. л. каля в. Сомры Крупскага р-на (16.11.1942). 3.8.1943 на ўчастку Слаўнае — Трацылава падарвалі больш за 120 рэек, 20.6.1944 на ўчастку Бобр—Слаўнае — больш за 400 рэек. У час злучэння з Чырв. Арміяй удзельнічалі ў баях з ворагам пры яго адступленні каля в. Круча і Старое Палессе Круглянскага р-на, 29.6—12.7.1944 разам з Чырв. Арміяй знішчалі варожыя групы ў тыле сав. войск. 29.6.1944 атрад (565 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 10-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Шклоўскага, Бялыніцкага, Круглянскага, Талачынскага, Аршанскага і Лепельскага р-наў.

Створаны ў крас. 1942, з мая ў брыгадзе «Чэкіст», з жн. 1943 асобны атрад Шклоўскай ВАГ. Камандзіры І. Дз. Буланаў, А. С. Дзянісаў, П. І. Маркаў (загінуў), М. С. Дзякаў, І. М. Крымцаў (загінуў), А. А. Белабрыгін; камісары Д. Я. Пракапец, Ф. А. Грышанаў, нач. штаба С. М. Красоўскі, М. А. Пракazaў.

Партызаны наносілі ўдары на чыг. Барысаў—Орша, Орша—Шклоў. 4.8. 1943 на Пд ад чыг. ст. Лотва падарвалі каля 60 рэек. 22.6.1942 каля в. Дымава Шклоўскага р-на ўдзельнічалі ў разгроме карнікаў, у кастр. 1943 і чэрв. 1944 — варожых гарнізонаў у в. Прыгані Круглянскага і Лотва Шклоўскага р-наў. 28.6.1944 наносілі ўдары па ворагу, які адступаў па дарозе Шапялевічы—Сомры. 29.6. 1944 атрад (376 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 11-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Смаленскай і Магілёўскай абл.

Створаны ў чэрв. 1942 як 2-і батальён *партызанскага палка «Трынаццаць»,* з 1.6.1944 атрад 11-ы партыз. злучэння *«Трынаццаць».* Камандзір С. Д. Іваноў, камісары Г. М. Шалаеў, А. І. Палякоў.

Партызаны ў жн. 1943 удзельнічалі ў аперацыях «рэйкавая вайна» на чыг. участку Магілёў—Крычаў. У чэрв. 1944 на чыгунцы Мінск—Орша каля ст. Бобр падарвалі больш за 190 рэек. 30.6.1944 атрад (176 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 12-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Смаленскай і Магілёўскай абл.

Створаны ў чэрв. 1943 у *партызанскім палку «Трынаццаць»,* з вер. 1943 6-ы батальён палка. З 1.6.1944 атрад 12-ы партыз. злучэння *«Трынаццаць».* Камандзіры І. А. Макарэнка, М. В. Зайцаў, Я. Л. Дулькін; камісары А. І. Палякоў, В. М. Герасімаў, І. Я. Абаротаў; нач. штаба Гулідаў, В. С. Пуставойт.

Партызаны праводзілі дыверсіі на камунікацыях ворага, 20.6.1944 удзельнічалі ў разбурэнні чыг. палатна на У ад чыг. ст. Крупкі. 30.6.1944 атрад (265 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 13-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Віцебскай, Смаленскай і Магілёўскай абл.

У маі 1942 у Мажайску створаны дыверсійны атрад «Качубея» (з кастр. «Перамога»). 12.8.1942 атрад (17 партызан) накіраваны ў варожы тыл, з вер. 1942 у брыгадзе «Аляксея». У лют. 1943 вылучаны з брыгады і перадыслацыраваны ў Смаленскую вобл. У сак. аператыўна падпарадкаваны партыз. палку «Трынаццаць», у кастр. ўвайшоў у яго

склад. З 1.6.1944 атрад 13-ы партыз. злучэння *«Трынаццаць»*. Камандзіры Дз. К. Рыбакоў, К. І. Новікаў; камісары Новікаў, І. А. Яцына, А. Я. Драздоў, І. М. Рэкрут.

Партызаны ў жн.—снеж. 1942 на чыг. участку Віцебск—Рудня падарвалі 17 варожых эшалонаў. У жн.—вер. 1943 на чыг. участках Орша—Крычаў, Магілёў—Крычаў удзельнічалі ў аперацыях «рэйкавая вайна». У сак. 1943 у Касплянскім і Манастыршчынскім, у кастр. ў Прапойскім і Быхаўскім, у лютым 1944 у Бялыніцкім р-нах вялі баі з карнікамі. 29.6.1944 атрад злучыўся з Чырв. Арміяй. Партызану *П. А. Галецкаму* прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 15-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Прапойскага і Чэрыкаўскага р-наў.

Створаны ў жн. 1943. Камандзір І. Н. Валчкоў, камісар Я. А. Касмачоў. У жн. партызаны ўдзельнічалі ў аперацыях «рэйкавая вайна» на ўчастку Крычаў—Чавусы, на шашэйных і грунтавых дарогах падарвалі і спалілі 6 мастоў. 2.10.1943 атрад (432 партызаны) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 19-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Быхаўскага і Прапойскага р-наў.

Створаны ў жн. 1943. Камандзір Ц. Я. Сакалоўскі, камісар В. В. Уласаў. 3—19.10.1943 атрад удзельнічаў у абарончых баях, у час прарыву блакады рассеяны. У кастр.— снеж. 1943 атрад асобнымі групамі злучыўся з Чырв. Арміяй. Частка асабовага складу атрада ўлілася ў 425-ы партыз. полк.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 20-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Шклоўскага, Бялыніцкага, Круглянскага, Лепельскага і Аршанскага р-наў.

Зімой 1941—42 у Аршанскім р-не створана група Б. М. Клюшнікава, у маі 1942 у Шклоўскім р-не яна пераўтворана ў атрад, які ў чэрв. 1942 увайшоў у брыгаду «Чэкіст», з жн. 1943 асобны атрад Шклоўскай ВАГ. Называўся па прозвішчах камандзіраў, у крас. 1943 ададзены № 20. Камандзіры Б. М. Клюшнікаў (загінуў), С. М. Якімаў; камісары М. І. Масюраў (загінуў), Ф. Ц. Сіялка, Г. І. Ігнаценка.

Партызаны наносілі ўдары на чыг. участках Мінск — Орша, Орша — Шклоў. У жн. 1943 на чыг. участках Шклоў—Лотва, Копысь—Чэрвена падарвалі больш за 90 рэек. 3.10.1943 удзельнічаў у разгроме варожага гарнізона ў в. Прыгані Круглянскага р-на (гл. *Прыганінскі бой 1943*). 20.6.1944 з інш. атрадамі Шклоўскай ВАГ нанеслі ўдар на чыг. участку Слаўнае—Трацылава; 28.6.1944, у час наступлення Чырв. Арміі, знішчалі ворага, які адступаў па дарозе Шапялевічы—Сомры. 29.6.1944 атрад (418 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 24-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Круглянскага, Крупскага і Талачынскага р-наў.

Створаны ў маі 1942. З чэрв. 1942 у брыгадзе 8-й Круглянскай, з жн. 1943 асобны атрад Круглянскай ВАГ. Камандзіры Г. С. Міснік, В. У. Кадышаў, П. В. Зямкоў; камісары Ф. С. Старавойтаў, М. С. Садоф'еў (загінуў), М. К. Сушкоў, Ц. М. Лупека, І. А. Прыстромаў, К. Ф. Канавалаў.

Партызаны праводзілі аперацыі на чыг. Мінск—Орша, на шашы Мінск—Магілёў. 28.8.1942 удзельнічалі ў разгроме чыг. ст. Слаўнае (гл. *Слаўненская аперацыя 1942*), у снеж. 1942 і студз. 1943 — варожых гарнізонаў у в. Шапялевічы і Цяцерына Круглянскага р-на. Вялі баі з карнікамі, у т. л. каля в. Сомры Крупскага р-на (16.11.1942). У жн. 1943 на ўчастку Слаўнае—Трацылава падарвалі больш за 100 рэек, 20.6.1944 на ўчастку Красноўка—Бобр—больш за 300 рэек. У час злучэння з Чырв. Арміяй удзельнічалі ў баях з ворагам, які адступаў, каля в. Круча Круглянскага р-на. 29.6.1944 атрад (313 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 25-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Клічаўскага, Быхаўскага, Кіраўскага і Бярэзінскага р-наў.

Створаны ў снеж. 1942, дзейнічаў у 5-й Клічаўскай брыгадзе, з мая 1943 самастойна, з ліп. асобны атрад Клічаўскай ВАГ. Камандзіры С. І. Лосеў, А. І. Сафронаў, У. Г. Семянішын; камісары А. М. Латышаў, В. П. Корабаў, П. М. Сідарэнка; нач. штаба А. Д. Красноў, П. А. Кушнер.

Партызаны ўдзельнічалі ў баях каля в. Палосы, Бярозавае Балота, Бёрда Клічаўскага р-на (люты 1944), каля Клічава (май 1944), у разгроме варожых гарнізонаў у в. Пагост Бярэзінскага (крас. 1944), Казулічы (кастр. 1943, май 1944; гл. *Казуліцкія баі 1943, 1944*), Пацава Слабада (сак. 1944; гл. *Пацаваслабодскія баі 1943 і 1944*) Кіраўскага р-наў, у «рэйкавай вайне» на ўчастках Магілёў — Дашкаўка (жн. 1943, гл. *Бялыніцкія аперацыі 1943*), Магілёў — Лотва (чэрв. 1944). 28.6.1944 атрад (222 партызаны) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 25-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Шклоўскага р-на.

Створаны ў крас. 1943 у брыгадзе «Чэкіст», з жн. 1943 асобны атрад Шклоўскай ВАГ. Камандзір І. А. Якушка; камісары М. Ф. Левін, М. П. Пічугін; нач. штаба Я. Я. Макееў, Я. Ц. Цімашэнка.

Партызаны ў жн. 1943 на чыг. участку Шклоў — Орша падарвалі больш за 40 рэек. 12.4 і 10.6.1944 каля в. Шчацінка і Аляксандраўка Шклоўскага р-на знішчылі абозы ворага; толькі ў Талачынскім р-не на чыг. лініях падарвалі 11 эшалонаў праціўніка. 18.4.1944 адбілі 3 атакі карнікаў, тройчы хадзілі ў контратаку. У чэрв. 1944 пашкодзілі 3 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі, знішчылі 2 масты, 27—28.6.1944 наносілі ўдары па ворагу, які адступаў па дарозе Шклоў — Круглае. 29.6.1944 атрад (152 партызаны) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 28-ы.** Дзейнічаў у Айч. вайну на акупіраванай тэр. Круглянскага, Талачынскага і Крупскага р-наў.

Створаны ў жн. 1942 у брыгадзе 8-й Круглянскай, з жн. 1943 асобны атрад Круглянскай ВАГ. Камандзіры А. А. Цярноўскі, І. П. Аляксандраў (загінуў), А. А. Інякін; камісары Ф. С. Старавойтаў, Дз. А. Кулікаў.

Партызаны 3.8.1943 на чыг. участку Слаўнае — Трацылава падарвалі больш за 220 рэек, 20.6.1944 на ўчастку Красноўка — Бобр — больш за 300 рэек. У маі і жн. 1943 удзельнічалі ў разгроме варожых гарнізонаў у в. Улужжа, Паўлавічы, Шавярнічы. 31.7 і 21.8.1943 правялі засадныя баі каля в. Шапялевічы і Паўлавічы. У час злучэння з Чырв. Арміяй удзельнічалі ў баях з ворагам, які адступаў каля в. Труханаўка Круглянскага р-на. Партызану *А. С. Лукашэвічу* прысвоена званне Героя Сав. Саюза. 29.6.1944 атрад (502 партызаны) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 30-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Круглянскага, Крупскага і Талачынскага р-наў.

Створаны ў маі 1942. Камандзіры М. У. Дудкевіч, А. І. Машчыцкі; камісары М. К. Сушкоў, А. А. Гурскі. З ліп. ў брыгадзе 8-й Круглянскай, з жн. 1943 асобны атрад Круглянскай ВАГ. У ліст. 1942 у яго ўліўся атрад Гурскага.

Партызаны праводзілі аперацыі на чыгунцы Мінск — Орша. 3.8.1943 падарвалі больш за 100 рэек, 20.6.1944 на чыг. участку Бобр — Слаўнае — больш за 400 рэек. У вер. і снеж. 1942 удзельнічалі ў разгроме варожых гарнізонаў у в. Дзянісавічы Крупскага і Шапялевічы Круглянскага р-наў. Вялі баі з карнікамі, у т. л. 16.11.1942 у в. Сомры Крупскага р-на. У час злучэння з Чырв. Арміяй удзельнічалі ў баях з ворагам, які адступаў, каля в. Труханаўка Круглянскага р-на. 29.6.1944 атрад (353 партызаны) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 31-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Бялыніцкага, Круглянскага і Талачынскага р-наў. Створаны ў кастр. 1943 у Шклоўскай ВАГ. Камандзір Г. А. Назараў, камісар І. Ц. Маляўка. Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунцы Мінск — Орша, у раёне ст. Слаўнае — Коханава падарвалі 22 эшалона, 3 з іх абстралялі і поўнасцю знішчылі. 6.6.1944 разграмілі абоз ворага каля в. Паўлавічы Круглянскага р-на. 20.6.1944 з інш. атрадамі ВАГ нанеслі ўдар на чыг. участку Слаўнае — Трацылава. 29.6.1944 атрад (378 партызан) злучыўся з Чырвонай Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 35-ы,** гл. *Партызанская брыгада 35-я.*

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 41-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Краснапольскага, Чэрыкаўскага і Прапойскага р-наў.

Створаны ў чэрв. 1942. З жн. 1943 асобны атрад Краснапольскай ВАГ. Камандзіры С. М. Карзюкоў (Вечаркоў), В. Н. Калпаносаў (в. а.); камісары А. І. Ушаў, М. Ц. Кузняцоў, П. М. Марчанка.

Партызаны праводзілі дыверсіі на камунікацыях ворага. Удзельнічалі ў аперацыях «рэйкавая вайна» на чыг. участку Крычаў — Чавусы. Разграмілі варожыя апорныя пункты ў в. Беразнякі і Старая Каменка Прапойскага р-на. У вер. 1943, у час наступлення Чырв. Арміі, на дарозе Краснаполле — Выдранка падарвалі 6 варожых аўтамашын. 1.10.1943 атрад (440 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 42-і.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Прапойскага і Чэрыкаўскага р-наў.

Створаны ў чэрв. 1942, з жн. 1943 асобны атрад Прапойскай ВАГ. Камандзіры М. М. Нікіцін, Г. А. Каралёў; камісар В. Я. Гапееў.

Партызаны зрывалі варожыя перавозкі на шашы Крычаў — Доўск, Чэрыкаў — Краснаполле. Летам 1943 правялі 12 засадных баёў на шашы Крычаў — Прапойск. 1.10.1943 атрад (248 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 43-і.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Прапойскага р-на.

Пачаў стварацца ў сак. 1943 на базе падп. групы. У маі 1943 афармлены ў атрад, з жн. асобны атрад Прапойскай ВАГ. Камандзіры М. П. Хаблоў, М. В. Навуменка, камісар С. Ф. Саўчанка.

Партызаны ў маі 1943 падарвалі 2 аўтамашыны. У чэрв. 1943 вызвалілі 53 вязняў з Прапойскай турмы. У жн. 1943 у ст. Верамейка разбурылі чыг. лінію, у вер. спалілі 4 масты. 1.10.1943 атрад (381 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 44-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Касцюковіцкага р-на. Пачаў стварацца ў вер. 1942, канчаткова аформіўся вясной 1943. Камандзір В. І. Сырамятнікаў, камісар М. Р. Папоў. 1.10.1943 атрад (110 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 45-ы «ЗА РАДЗІМУ».** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Клімавіцкага і Краснапольскага р-наў. Створаны ў ліст. 1942. Камандзір У. І. Маркаў; камісары І. С. Салдаценка, Ф. Ф. Сігаеў. Партызаны праводзілі аперацыі на чыгунцы Магілёў — Сураж. У маі — чэрв. 1943 падарвалі 11 эшалонаў, 2 чыг. масты, у жн. — больш за 450 рэек. У ліп.— жн. 1943 вялі баі з ворагам, які спрабаваў прарвацца ў партыз. зону. 23.9. 1943 каля в. Шалухоўка Краснапольскага р-на вялі бой з варожай калонай. 30.9.1943 атрад (504 чал.) злучыўся з Чырв. Арміяй. У 1978 каля в. Восаў у гонар атрада пастаўлена стэла.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 47-ы «ПЕРАМО́ГА»,** гл. *Партызанская брыгада 47-я «Перамога».*

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 48-ы КРЫ́ЧАЎСКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Крычаўскага, Прапойскага, Быхаўскага р-наў.

У лютым 1943 створана партыз. група А. Л. Гаўрыленкі, якая ў чэрв. (78 чал.) аформлена ў атрад. У жн. аб'яднаны з атрадам В. Л. Шырко (72 чал.) у атрад 48-ы з дыслакацыяй у Крычаўскім р-не. Камандзір А. Л. Гаўрыленка, камісар С. С. Давыдзенка. У вер. 1943 атрад раздзяліўся на *партызанскі атрад 48-ы Прапойскі* і атрад 48-ы Крычаўскі.

Партызаны ўдзельнічалі ў аперацыях «рэйкавая вайна» на чыг. участку Магілёў — Клімавічы: зрывалі варожыя перавозкі, падарвалі 12 эшалонаў. У вер. 1943 разграмілі гарнізон, які ахоўваў мост цераз р. Вудага на дарозе Чэрыкаў — Крычаў, падарвалі мост і дзот. У кастр. 1943 з інш. атрадамі вялі цяжкія абарончыя баі. 25.11.1943 атрад (204 чал.) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 48-ы ПРАПО́ЙСКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Прапойскага, Крычаўскага і Журавіцкага р-наў.

Пачаў стварацца ў маі 1943 на базе групы В. Л. Шырко, у жн. атрад (72 чал.) аб'яднаўся з атрадам А. Л. Гаўрыленкі ў *партызанскі атрад 48-ы Крычаўскі.* У вер. 1943 у час блакады каля 60 партызан на чале з Шырко выйшлі ў Прапойскі р-н і стварылі партыз. атрад 48-ы Прапойскі. Камандзір Шырко.

Партызаны праводзілі аперацыі на чыг. участку Крычаў — Клімавічы. У ліп. на ст. Крычаў замініравалі эшалоны з гаручым (згарэлі), на ўчастку Крычаў — Ходасы пусцілі пад адхон варожы эшалон, у жн. падарвалі больш за 80 рэек. У жн. ў Горацкім, у кастр. ў Быхаўскім і Прапойскім р-нах вялі баі супраць карнікаў. 7.12.1943 атрад (302 партызаны) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 60-ы ІМЯ́ Ф. М. СЯДЛЕ́ЦКАГА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Шклоўскага, Бялыніцкага, Круглянскага і Талачынскага р-наў.

Створаны ў вер. 1943 у складзе Шклоўскай ВАГ. Камандзіры Ф. М. Сядлецкі (загінуў), С. А. Крэнеў, камісар П. І. Букштынаў.

Партызаны праводзілі аперацыі на чыгунцы Мінск—Орша, на шашэйных і грунтавых дарогах. 19.1.1944 разграмілі абоз ворага на дарозе Шклоў—Круглае. У чэрв. 1944 удзельнічалі ў разгроме гарнізона праціўніка ў в. Лотва Шклоўскага р-на, 20.6. 1944 разам з інш. атрадамі Шклоўскай ВАГ нанеслі ўдар на чыг. участку Слаўнае—Трацылава. Знішчалі групы ворага, які адступаў па дарозе Шапялевічы — Сомры. 29.6.1944 атрад (348 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 61-ы,** гл. *Партызанская брыгада 61-я.*

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 64-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Смалявіцкага, Бярэзінскага і Круглянскага р-наў. Створаны ў жн. 1941 з байцоў і камандзіраў 64-га асобнага зенітна-арт. дывізіёна (7 чал.) і жыхароў Смалявіцкага р-на. Камандзір М. А. Радзін, камісар Баранаў. На 3.9.1941 налічваў каля 150 байцоў. З студз. 1942 лёс не высветлены.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 85-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Заслаўскага, Бярэзінскага, Шклоўскага і Мсціслаўскага р-наў. Створаны ў чэрв. 1941 з каманднага саставу 85-й стралк. дывізіі, які не выйшаў з варожага тылу. Камандзір Б. Малышаў. На 17.7.1941 налічваў 43 партызаны. З вер. 1941 лёс не высветлены.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 100-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Кіраўскага, Быхаўскага і Бабруйскага р-наў.

У чэрв. 1942 у Кіраўскім р-не на базе груп чырв. самаабароны створаны Немкаўскі атрад (камандзір Ф. С. Міхайлаў, камісар А. В. Казлоўскі). У ліст. пераўтвораны ў партыз. атрад 100-ы. З ліп. 1942 у брыгадзе 2-й Клічаўскай, з сак. 1943 у брыгадзе 9-й Кіраўскай, з ліп. 1943 асобны атрад Кіраўскай ВАГ. Камандзіры атрада Ф. С. Міхайлаў, А. В. Казлоўскі (в. а.); камісары І. І. Дамброўскі, А. І. Бычкоў.

Партызаны наносілі ўдары на чыгунцы Орша—Жлобін, шашы Магілёў—Бабруйск. У жн. 1943 і чэрв. 1944 удзельнічалі ў аперацыях «рэйкавая вайна», 29.10.1943— у разгроме апорнага пункта ў в. Казулічы. У крас.— маі 1944 падарвалі 15 аўтамашын, знішчылі 2 масты, больш за 11 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі. 27.6.1944 атрад (344 партызаны) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 106-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Дзяржынскага і Навагрудскага р-наў. Створаны ў маі 1943. 9.7.1944 атрад (137 партызан і 421 чал. сямейнага атрада) злучыўся з Чырвонай Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 108-ы ІМЯ́ Р. І. КАТО́ЎСКАГА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Жлобінскага, Журавіцкага, Буда-Кашалёўскага р-наў.

Створаны ў сак. 1943. Уваходзіў у партыз. брыгаду 10-ю Журавіцкую. З жн. 1943 у *партызанскай брыгадзе 1-й Буда-Кашалёўскай,* потым дзейнічаў самастойна. Камандзір атрада М. А. Трусноў; камісары С. П. Каспрук, Ф. В. Сполахаў; нач. штаба Р. І. Караткоў.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыг. участках Быхаў — Жлобін — Буда-Кашалёва. У жн. 1943 з брыгадай «Жалязняк» разграмілі варожы гарнізон у в. Замен-Рынне Жлобінскага р-на. У ліст. 1943 пры падыходзе часцей Чырв. Арміі разам з брыгадамі імя Панамарэнкі і «Жалязняк» перарэзалі дарогу Горваль — Шацілкі, напалі на варожы апорны пункт у в. Горваль Рэчыцкага р-на і захапілі калону аўтама-

шын (гл. *Горвальская аперацыя 1943*). 23.11.1943 атрад (344 партызаны) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 110-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Клімавіцкага р-на.

Створаны ў вер. 1941 з ваеннаслужачых і мясцовых жыхароў камандзірам 110-й стралк. дывізіі В. А. Хлебцавым, які ўзначаліў атрад.

3.11.1941 атрад з баямі накіраваўся да лініі фронту. 13.12.1941 атрад (каля 170 партызан) выйшаў у сав. тыл каля в. Слабада Тульскай вобл.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 112-ы ГО́РАЦКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Горацкага, Шклоўскага, Аршанскага і Дубровенскага р-наў.

Створаны ў вер. 1943. Да мая 1944 у 115-й Горацкай брыгадзе, з мая 1944 дзейнічаў самастойна. Камандзір В. Д. Шараў; камісары У. З. Бурлаеў, П. С. Равякаў (загінуў).

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыг. участку Орша — Пагодзіна і шашэйных дарогах. З 28.9.1943 да 12.3.1944 пусцілі пад адхон варожы эшалон, спалілі і падарвалі 5 мастоў, 11 аўтамашын. Каля в. Якаўлевічы Аршанскага р-на напалі на канвойную каманду і вызвалілі мірных жыхароў ад вывазу на катаржныя работы ў Германію. Падарвалі склад, разграмілі варожы гарнізон у в. Маркавічы Аршанскага р-на. 22.5.1944 удзельнічалі ў прарыве блакады ў Горацкім р-не. 26.6.1944 атрад (681 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 113-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Косаўскага, Быценскага, Ганцавіцкага р-наў.

Створаны ў кастр. 1942 як дыверсійны з партызан, вылучаных 112-м атрадам. Камандзір М. Р. Арцеменка, камісар Г. І. Качарын.

У чэрв. 1943 расфарміраваны. Частка партызан перададзена асобнаму дыверсійна-разведвальнаму атраду І. П. Топкіна, асн. састаў уліўся ў атрад імя В. М. Молатава (гл. ў арт. *Партызанская брыгада імя Ф. Э. Дзяржынскага*). На дзень расфарміравання налічваў больш за 90 партызан.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 113-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Быценскага, Целяханскага, Чырвонаслабодскага р-наў.

Створаны ў маі 1942 з дзвюх груп ваеннаслужачых, якія не выйшлі з акружэння, а таксама ўцяклі з варожага палону. Камандзіры І. Кулікоў (загінуў), А. Шмакаў, І. С. Качамараў; камісары Шмакаў, Ф. Ф. Светкін.

Партызаны ў маі — чэрв. 1942 ачысцілі большую частку тэр. Быценскага р-на ад жандармскіх і паліцэйскіх пастоў, валасных упраў. Праводзілі дыверсіі на чыг. участку Івацэвічы — Быцень. 1.9.1942 група партызан (20 чал.) сумесна з *партызанскім атрадам імя М. А. Шчорса* ўдзельнічала ў разгроме камендатуры ў в. Чамялы, знішчэнні моста цераз р. Шчара. У вер.— кастр. 1942 атрад вёў баі з карнікамі, у ноч на 31 кастр. сумесна з атрадам В. А. Васільева — І. В. Зібарава (гл. ў арт. *Партызанская брыгада імя У. І. Леніна* Пінскай вобл.) удзельнічаў у разгроме варожага гарнізона ў райцэнтры Чырвоная Слабада Мінскай вобл. (гл. *Чырвонаслабодскі бой 1942*). Пасля бою групай (ротай) уліўся ў атрад Васільева — Зібарава.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 115-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Клічаўскага, Бярэзінскага, Бялыніцкага, Кіраўскага і Быхаўскага р-наў.

Створаны ў вер. 1942. З ліст. ў брыгадзе 4-й Клічаўскай, з мая 1943 дзейнічаў самастойна, з ліп. 1943 асобны атрад Клічаўскай ВАГ. Камандзіры А. П. Доўгі, І. Ф. Рудаў, І. Я. Вайтусёнак; камісары П. М. Вікторчык, А. Я. Шчыслёнак.

Партызаны вялі баі ў Клічаўскім р-не супраць карнікаў. У крас. 1944 удзельнічалі ў разгроме варожага гарнізона ў в. Пагост Бярэзінскага р-на. Разбурылі чыг. палатно на ўчастках Магілёў — Дашкаўка (жн. 1943), Магілёў — Лотва (чэрв. 1944). Вялі баі за ўтрыманне партыз. зоны. 28.6.1944 атрад (345 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 115-ы ГО́РАЦКІ,** гл. *Партызанская брыгада 115-я Горацкая.*

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 120-ы,** гл. *Партызанская брыгада 120-я.*

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 124-ы КАСЦЮКО́ВІЦКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Касцюковіцкага р-на БССР і Клятнянскага р-на Арлоўскай вобл.

Створаны ў жн. 1941. Восенню большасць партызан атрада выйшла ў сав. тыл. Група, якая асталася на акупіраванай тэрыторыі, папоўнілася за кошт мясцовага насельніцтва і ў маі 1942 стала атрадам. У жн. 1942 увайшоў у партыз. брыгаду «Уперад», потым дзейнічаў асобна. Камандзір М. А. Нарчук, камісар С. П. Казлоў (загінуў).

Партызаны праводзілі аперацыі на чыг. участку Бялынкавічы — Журбін. У маі 1942 у Касцюковіцкім р-не разагналі 14 валасных упраў, сарвалі вываз моладзі на катаржныя работы ў Германію. У ліп. — жн. 1942 у Кармянскім р-не, у студз.— сак. 1943 у Клятнянскім р-не вялі баі за выхад з блакады. У складзе брыгады «Уперад» у жн. 1943 на ўчастку Клімавічы — Камунары ўдзельнічалі ў аперацыі «рэйкавая вайна». 28.9. 1943 атрад (107 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 130-ы «ПО́МСТА»,** гл. *Партызанская брыгада 130-я «Помста».*

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 200-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Целяханскага, Ганцавіцкага, Лунінецкага р-наў.

Створаны ў снеж. 1943 у Магілёўскім р-не. Камандзір В. П. Дрожнікаў, камісар *П. Я. Гаро,* нач. штаба М. В. Белакураў.

У снеж. 1943 — крас. 1944 партызаны зрабілі 600-кіламетровы рэйд у Целяханскі р-н. З 208-м партыз. палком выбілі праціўніка з в. Краі, разграмілі апорны пункт у в. Новы Двор і захапілі 9 кулямётаў, 50 тыс. патронаў, удзельнічалі ў абароне партыз. зоны ў раёне Дняпроўска-Бугскага канала (гл. *Дняпроўска-Бугскага канала абарона 1944*). У чэрв. 1944 аператыўна падпарадкаваны 208-му партыз. палку. 12.7.1944 атрад (99 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 210-ы ІМЯ І. В. СТАЛІНА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Асіповіцкага, Пухавіцкага і Чэрвеньскага р-наў.

Створаны ў сак. 1942. З ліп. 1942 у складзе Клічаўскага аператыўнага цэнтра. Са студз. 1943 галаўны атрад *партызанскай брыгады 1-й Асіповіцкай.* З ліп. 1943 дзейнічаў як асобны атрад Асіповіцкай ВАГ. Камандзіры М. П. Каралёў, С. С. Сумчанка (в. а.), В. В. Глотаў, Дз. Б. Шрэйн, камісары А. В. Шыянок, Глотаў, Р. Х. Голант.

Партызаны асн. ўдары наносілі па камунікацыях ворага. У кастр. 1943 падарвалі 8 эшалонаў, 8 мастоў, 7 аўтамашын. Самастойна і з інш. атрадамі вялі баі па ачышчэнню раёна дыслакацыі ад ням.-фаш. захопнікаў, разграмілі 7 апорных пунктаў ворага, абаранялі партыз. зону. У час карных экспедыцый (ліп.— жн. 1942, студз. 1943, май 1944) праводзілі аперацыі па выхаду з акружэння. 2.7.1944 атрад (588 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй; удзельнічаў у ліквідацыі варожых груп. Камандзіру атрада Каралёву прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 211-ы ІМЯ К. К. РАКАСОЎСКАГА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Асіповіцкага р-на.

Створаны ў студз. 1943 на базе групы Р. Н. Баразны, якая дзейнічала з ліп. 1942. Да ліп. 1943 у брыгадзе 1-й Асіповіцкай, потым асобны атрад Асіповіцкай ВАГ. Камандзіры Баразна, Р. Я. Чарапко (в. а.); камісары Чарапко, А. В. Шыянок.

Партызаны асн. ўдары наносілі на чыгунцы Пухавічы — Асіповічы — Жлобін, на шашэйных і грунтавых дарогах. Правялі 179 аперацый па падрыву эшалонаў, мастоў. Падарвалі больш за 120 аўтамашын. У жн.— кастр. 1943, чэрв. 1944 знішчылі больш за 1,1 тыс. рэек. У 1944 атрад 8 разоў мяняў дыслакацыю, ухіляючыся ад баёў з большымі сіламі ворага. Пасля злучэння з Чырв. Арміяй удзельнічаў у баях з ням.-фаш. захопнікамі ў раёне в. Брыцалавічы, Ясень, г. Асіповічы. 30.6.1944 атрад (372 партызаны) злучыўся з Чырв. Арміяй. Партызану *Б. М. Дзмітрыеву* прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 212-ы ІМЯ С. С. СУМЧАНКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Асіповіцкага р-на.

Створаны ў студз. 1943, да ліп. 1943 у брыгадзе 1-й Асіповіцкай, потым у Асіповіцкай ВАГ. Камандзіры В. М. Сем-

кін, І. Б. Гнядзько, П. А. Маркоўскі; камісар Р. Ф. Сатоўскі.

Партызаны вялі баі за расшырэнне партыз. зоны, удзельнічалі ў разгроме варожых апорных пунктаў у в. Вязаўніца, Паплавы, у баях з карнікамі. У студз. 1943 з інш. атрадамі ВАГ правялі 7 баёў, каб прарваць блакаду. У жн. на ўчастку Асіповічы — Татарка папсавалі чыг. палатно. У кастр. на чыг. участку Пухавічы — Бабруйск падарвалі 5 эшалонаў, у раёне ст. Асіповічы — 140 рэек. 28.6.1944 атрад (255 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 213-ы «ЗА САВЕ́ЦКУЮ БЕЛАРУ́СЬ».** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Асіповіцкага і сумежных з ім раёнах.

Створаны ў студз. 1943 у брыгадзе 1-й Асіповіцкай, з ліп. асобны атрад Асіповіцкай ВАГ. Камандзіры У. М. Волкаў, Ф. К. Шычко (Падлесны); камісары Ф. У. Карунчыкаў, Э. Ф. Паўлюць.

Партызаны вялі баі на варожых камунікацыях. У жн. 1943 на чыг. участку Татарка — Ясень падарвалі 140 рэек, у кастр. 1943 на чыг. Магілёў — Асіповічы — 100 рэек. У час карнай экспедыцыі (студз. 1943) вялі баі за выхад з акружэння. 12.7.1943 удзельнічалі ў разгроме варожага гарнізона ў в. Паплавы. 28—30.6.1944 разам з разведчыкамі 601-га палка Чырв. Арміі вялі баі каля в. Каменічы. 30.6.1944 атрад (188 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 214-ы ІМЯ́ М. І. КАЛІ́НІНА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Асіповіцкага р-на. Створаны ў ліп. 1943 у Асіповіцкай ВАГ. Камандзір Дз. А. Падгайны, камісар М. С. Пінчук. Партызаны праводзілі дыверсіі на варожых камунікацыях. У жн. 1943 на ўчастку Асіповічы — Татарка падарвалі 190 рэек. У кастр. сувязныя атрада падарвалі 2 эшалоны. У жн.— кастр. 1943 і маі 1944 удзельнічалі ў баях за выхад з акружэння. 18.11.1943 правялі засадны бой на дарозе Бабруйск — Свіслач. У час наступлення Чырв. Арміі ў раёне в. Брыцалавічы і Градзянка вялі баі з групоўкамі ворага. 1.7.1944 атрад (156 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 215-ы ІМЯ́ У. І. ЛЕ́НІНА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Асіповіцкага р-на. Створаны ў ліп. 1943 як асобны атрад Асіповіцкай ВАГ. Камандзір Р. В. Пыжоў, камісар М. В. Баранаў. Партызаны праводзілі аперацыі на чыг. участках Асіповічы — Слуцк, Пухавічы — Жлобін. У сак.— чэрв. 1944 зрабілі каля 30 дыверсій па падрыву варожых эшалонаў. Падбілі 22 аўтамашыны, разбурылі 11 мастоў. У чэрв. 1944 падарвалі больш за 420 рэек. 3.7.1944 атрад (195 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 216-ы ІМЯ П. К. ПАНАМАРЭНКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Асіповіцкага р-на.

Створаны ў жн. 1943 як асобны атрад Асіповіцкай ВАГ. Камандзір М. Ц. Свердлікаў; камісары С. М. Альхавец, Ф. М. Дубінчык; нач. штаба Дубінчык, В. В. Грыбкоў.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунках, шашэйных і грунтавых дарогах. У кастр. 1943 падарвалі больш за 190 рэек, вялі баі за прарыў блакады, у лютым і маі 1944 выйшлі з акружэння. У сакавіку 1944 на чыг. участках Асіповічы — Вярэйцы, Асіповічы — Дараганава зрабілі 2 крушэнні эшалонаў. 28.6.1944 атрад (86 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 225-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Быхаўскага, Кіраўскага і Бабруйскага р-наў.

Створаны ў ліп. 1943, дзейнічаў асобным атрадам Быхаўскай ВАГ. Камандзір М. Г. Кісялёў, камісар М. Р. Ермаліцкі.

Партызаны праводзілі дыверсіі на варожых камунікацыях, удзельнічалі ў разгроме гарнізонаў у в. Тайманава, Касічы, Балонаў-Сялец, Ямнае Быхаўскага р-на. У жн. і вер. 1943 у складзе Быхаўскай ВАГ удзельнічалі ў аперацыях «рэйкавая вайна» на чыг. участку Быхаў — Тошчыца, у разгроме варожага гарнізона і чыг. ст. Тошчыца (гл. *Тошчыцкі бой 1943*). 24.2.1944 атрад (344 партызаны) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 252-і.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Рагачоўскага, Клічаўскага і Крупскага р-наў.

Створаны ў крас. 1943 з партызан 2-й роты 255-га атрада як спецатрад. У сак. 1944 пераўтвораны ў 252-і атрад Рагачоўскай ВАГ. Камандзір І. М. Парываеў; камісары І. Ц. Зуевіч, П. М. Рэйдзер, А. К. Іванюк; нач. штаба В. І. Шаўчэнка, Л. Ц. Казлоўскі.

Партызаны на чыг. участку Жлобін — Цялуша пусцілі пад адхон 6 варожых эшалонаў, падарвалі каля 60 рэек, на чыг. участку Рагачоў — Жлобін падарвалі эшалон з гаручым. У маі — ліп., кастр.— ліст. 1943, лютым, маі 1944 удзельнічалі ў баях з карнікамі за выхад з акружэння. У лютым 1944 у в. Анаўка Рагачоўскага р-на знішчылі склад з боепрыпасамі і аўтаматорамі. 28.6.1944 атрад (220 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 257-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Рагачоўскага, Бярэзінскага, Клічаўскага, Быхаўскага, Крупскага р-наў.

Створаны ў лют. 1943 з дыверсійнай групы А. С. Язерскага і групы партызан 255-га атрада. Дзейнічаў у складзе *партызанскай брыгады 8-й Рагачоўскай*, з сак. 1944 у Рагачоўскай ВАГ. Камандзіры атрада Язерскі, Я. А. Сяськоў; камісары В. У. Паўлаў, М. Ф. Кавалёў; нач. штаба М. К. Шавялёў.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыг. участку Жлобін — Цялуша. У жн. 1943 падарвалі 270 рэек, у маі — жн. пусцілі пад адхон 9 варожых эшалонаў, знішчылі і пашкодзілі 15 аўтамашын, 3 масты, разграмілі 2 варожыя апорныя пункты. У ліп., вер., ліст. 1943, лютым, маі 1944 вялі баі з карнікамі за прарыў блакады. У крас. 1944 збілі варожы самалёт. 27.6.1944 у час падыходу Чырв. Арміі вялі баі з ворагам, які адступаў, у Шклоўскім і Бялыніцкім р-нах. 27.6.1944 атрад (414 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 258-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Рагачоўскага, Клічаўскага і Крупскага р-наў.

Створаны ў сак. 1943 у складзе *партызанскай брыгады 8-й Рагачоўскай*. З сак. 1944 у Рагачоўскай ВАГ. Камандзіры атрада У. М. Кароткі, А. Я. Галашчапаў; камісар А. К. Мальцаў; нач. штаба І. Л. Шыцікаў, М. Ц. Мядзведзеў, П. Дз. Лукашоў.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыг. участку Тошчыца — Рагачоў. У жн. 1943 падарвалі каля 600 рэек, пусцілі пад адхон больш за 10 варожых эшалонаў, знішчылі і пашкодзілі 50 аўтамашын, разграмілі апорны пункт, збілі самалёт. Удзельнічалі ў баях супраць карнікаў каля в. Развадава (люты 1944) Клічаўскага р-на і ў Крупскім р-не (чэрв. 1944). 28.6.1944 атрад (512 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 259-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Рагачоўскага, Клічаўскага і Крупскага р-наў.

Створаны ў сак. 1943. Уваходзіў у *партызанскую брыгаду 8-ю Рагачоўскую*, з сак. 1944 у Рагачоўскай ВАГ. Камандзіры Ц. Т. Ціхаміраў, М. П. Андрыянаў; камісар Ціхаміраў.

Партызаны вялі баі за расшырэнне партыз. зоны, за выхад з акружэння. У час «рэйкавай вайны» падарвалі 279 рэек. У кастр.— снеж. 1943 падарвалі 3 танкі, 33 аўтамашыны з жывой сілай і тэхнікай, 2 матацыклы, 4 масты, знішчылі каля 5 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі. 28.6.1944 атрад (175 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 278-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Клічаўскага, Кіраўскага, Быхаўскага, Бялыніцкага, Бярэзінскага, Шклоўскага р-наў.

Створаны ў чэрв. 1942. З ліст. 1942 у брыгадзе 4-й Клічаўскай, з снеж. дзейнічаў самастойна. У крас. 1943 атрад пад № 278 уключаны ў брыгаду 2-ю Клічаўскую, у маі вылучаны ў самастойны, у ліп. ўвайшоў у Клічаўскую ВАГ. Камандзіры М. І. Кніга, В. М. Ананіч. камісары А. М. Латышаў, Я. І. Заяц, А. Ц. Курсакоў.

Партызаны наносілі ўдары на чыг. участках Магілёў — Рагачоў, Магілёў — Шклоў, Бабруйск — Жлобін. У вер. 1942 каля ст. Мілое падарвалі мост. У жн. 1943 на ўчастку Магілёў — Дашкаўка каля в. Сялец падарвалі 360 рэек, разбурылі 500 м тэлефонна-тэлеграфнай лініі. У крас., жн.— кастр. 1943 удзельнічалі ў разгроме варожых гарнізонаў у Клічаве (гл. *Клічаўскія баі 1942, 1943*), Мацевічах (гл. *Мацевіцкі бой 1943*), Заполлі, Казулічах (гл. *Казуліцкія баі 1943, 1944*). У маі і жн. 1943 вялі

баі з карнымі экспедыцыямі, утрымлівалі партыз. зону. 28.6.1944 атрад (490 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 309-ы ІМЯ́ С. М. КІРАВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Асіповіцкага р-на. Створаны ў студз. 1943. Камандзір М. П. Самсонік, камісар С. П. Багроў. 28.6.1944 атрад (202 партызаны) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 340-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Бярэзінскага р-на.

Створаны ў сак. 1943. Да мая 1943 у брыгадзе 3-й Бярэзінскай, з ліп. 1943 у Бярэзінскай ВАГ. Камандзіры С. Ц. Крыварот, А. П. Каржавін, камісар А. Ц. Патупчык.

Партызаны праводзілі аперацыі на чыг. участках Крупкі — Бобр, Шклоў — Магілёў. У жн. 1943 на ўчастку чыгункі Магілёў — Быхаў падарвалі 260 рэек. Разам з Чырв. Арміяй удзельнічалі ў разгроме варожай калоны каля в. Галынка. 2.7.1944 атрад (242 партызаны) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 345-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Бярэзінскага, Клічаўскага, Быхаўскага, Шклоўскага, Бялыніцкага і Бярозаўскага р-наў.

Створаны ў маі 1942. Камандзіры С. А. *Яроцкі*, В. М. Буры; камісары К. А. Баранаў, В. М. Яроцкі; нач. штаба Ф. І. Казаноўскі, І. М. Казюкін.

Партызаны атрада самастойна і ў складзе брыгады 3-й Бярэзінскай зрывалі транспартныя перавозкі, у маі — ліп. 1942 знішчылі каля 20 мастоў, разграмілі гарнізоны ў в. Дулебы (25.9.1942), Журавок (13.4.1943), Машчаніца. У жн. 1943 з палком 208-м, атрадамі 277-м і 120-м каля в. Мацевічы разбілі варожы батальён. За час рэйду ў кастр.— снеж. 1943 з Бярэзінскага ў Бярозаўскі р-н прайшлі больш за 600 км, правялі 4 сустрэчныя баі. У «рэйкавай вайне» 3.8.1943 на чыг. участку Магілёў — Быхаў падарвалі 690 рэек, у чэрв. 1944 на чыг. участку Бяроза-Картузская — Косава-Палеская — больш за 350 рэек. У крас. 1944 удзельнічалі ў *Здзітаўскай абароне 1944*. Адрэзалі шляхі адступлення разрозненым ням. войскам на дарогах Старыя Пескі — Рэчыца, Старыя Пескі — Стрыгінь. 12.7.1944 атрад (263 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 346-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Бярэзінскага р-на.

Створаны ў кастр. 1943 у Бярэзінскай ВАГ. Камандзіры С. Ц. Крыварот, М. І. Крукаў; камісар Р. Р. Паддубскі.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунцы Магілёў — Быхаў. У сак. і маі 1944 вялі засадныя баі каля в. Восава, Уцешына. Ва ўзаемадзеянні з Чырв. Арміяй разграмілі варожую калону каля в. Галынка. 2.7.1944 атрад (291 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 347-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Бярозаўскага р-на.

Створаны ў маі 1944. Камандзір А. Дз. Арбузаў, камісар А. Я. Царычаў. нач. штаба П. Х. Пімоненка.

Партызаны ўдзельнічалі ў аперацыі «рэйкавая вайна» на чыг. участку Бяроза-Картузская — Косава-Палескае, знішчалі тэлефонна-тэлеграфную лінію, ахоўвалі мірнае насельніцтва. 12.7.1944 атрад (112 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 435-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Быхаўскага, Кіраўскага і Рагачоўскага р-наў.

Створаны ў ліп. 1943 у брыгадзе 11-й Быхаўскай. З ліп. 1943 асобны атрад Быхаўскай ВАГ. Камандзір У. С. Дзянісаў; камісары І. С. Зычкоў, К. Н. Шыбанаў; нач. штаба М. Я. Белаглазаў.

Партызаны разбурылі 16 мастоў, 1,2 км дарожнага профілю, зрабілі на працягу 17 км завалы, падбілі 6 аўтамашын. У жн. 1943 удзельнічалі ў аперацыі «рэйкавая вайна» на чыг. участку Быхаў — Рагачоў, у разгроме варожых гарнізонаў у в. Тайманава, Камарычы, Балонаў-Сялец, Ямнае Быхаўскага р-на, у вер.— у разгроме чыг. ст. Тошчыца (гл. *Тошчыцкі бой 1943*). 24.2.1944 атрад (267 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 538-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Кіраўскага і Быхаўскага р-наў.

Створаны ў сак. 1943 у брыгадзе 9-й Кіраўскай. З ліп. 1943 асобны атрад Кіраўскай ВАГ. Камандзір В. П. Шvяцоў, камісар П. П. Анікін.

Партызаны ў жн. 1943 і чэрв. 1944 удзельнічалі ў аперацыях «рэйкавая вайна» ў раёне ст. Рагачоў, Лотва. 23.3.1944 з атрадам 539-м напалі на варожы апорны пункт у в. Селішча, знішчылі 17 аўтамашын, гараж. 29.4. 1944 удзельнічалі ў нападзе на варожы батальён сувязі, раскватараваны ў в. імя Дзяржынскага Кіраўскага р-на, знішчылі каля 30 аўтамашын, танк, гараж. У маі 1944 падбілі 7 аўтамашын. 27.6.1944 атрад (533 партызаны) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 540-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Кіраўскага, Клічаўскага, Быхаўскага, Шклоўскага і Бабруйскага р-наў.

Створаны ў вер. 1943 як асобны атрад Кіраўскай ВАГ. Камандзір І. І. Дамброўскі, камісар Дз. І. Бычкоў.

Партызаны ў крас. 1944 на шашы Магілёў — Бабруйск, Бабруйск — Жлобін і інш. дарогах знішчылі 6 аўтамашын. У в. Плёсы Бабруйскага р-на падарвалі склад паруча-змазачных матэрыялаў. У чэрв. 1944 удзельнічалі ў аперацыі «рэйкавая вайна» на ўчастку Магілёў — Шклоў. 27.6. 1944 атрад (316 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 550-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Целяханскага, Бярозаўскага і Крынкаўскага р-наў.

Створаны ў жн. 1943 на базе арганізатарскай групы Р. А. Дзякава і асабовага саставу партыз. брыгады імя Чапаева Мінскай вобл. У вер.— ліст. 1943 атрад баявым рэйдам перадыслацыраваны з Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. ў Беластоцкую вобл. Камандзір Р. А. Дзякаў; камісары Ц. В. Ясючэня (загінуў), П. А. Сяўко; нач. штаба А. А. Смірноў.

У крас. 1944 партызаны атрада разам з брыгадамі імя Дзяржынскага і 8-й Брэсцкай вобл. ўдзельнічалі ў баях каля в. Гічыцы, Уласаўцы, Вулька-Аброўская, Бабровічы. 18.7. 1944 атрад (106 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 620-ы ІМЯ́ В. І. ЧАПА́ЕВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Клічаўскага, Кіраўскага, Бярэзінскага, Быхаўскага, Клецкага р-наў.

Створаны ў снеж. 1941. Камандзіры В. М. Сырцоў (загінуў), М. С. *Міхалап* (загінуў), А. А. *Хачатран;* камісары М. І. Александровіч, М. Ф. Мірановіч (в. а.), Г. А. *Храмовіч*, П. А. Рыняк, А. А. Хачатран, М. Г. Буракоўскі; нач. штаба Ф. С. Тарасевіч, І. П. Міхалап, Ф. К. Сцерлеў.

Партызаны разам з інш. клічаўскімі атрадамі ў сак.— крас. 1942 ачысцілі тэр. раёна ад варожых гарнізонаў, вызвалілі і ўтрымлівалі Клічаў. 24.12. 1942 з атрадам 113-м разбілі гарнізон, які ахоўваў чыг. мост цераз Друць. У маі 1943 партызаны правялі 10 сустрэчных баёў з карнікамі. Разграмілі каля 20 гарнізонаў і ўчасткаў, у т. л. ў рабочым пас. Градзянка Асіповіцкага, в. Кабылянка, Дзяржынск Клічаўскага р-наў, падарвалі 1,2 тыс. рэек, 47 мастоў. У ліст. 1943 — студз. 1944 зрабілі рэйд з Клічаўскага ў Клецкі р-н. 4.7.1944 атрад (287 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 720-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Чэрыкаўскага, Касцюковіцкага, Клічаўскага, Краснапольскага, Чавускага, Прапойскага і Крычаўскага р-наў.

Створаны ў кастр. 1942. З ліст. ў брыгадзе 4-й Клічаўскай, з крас. 1943 дзейнічаў самастойна, з жн. 1943 асобны атрад Чэрыкаўскай ВАГ. Камандзіры Ф. С. Тарасевіч, Г. А. Храмовіч, П. У. Жмуроўскі, камісары Храмовіч, М. П. Фёдараў.

20.4—25.5.1943 партызаны зрабілі рэйд з в. Усакіна Клічаўскага р-на ў Чэрыкаўскі р-н. У жн. і вер. 1943 удзельнічалі ў аперацыі «рэйкавая вайна» на ўчастку Міхеевічы — Асмолавічы. Самастойна і з інш. атрадамі разграмілі варожыя апорныя пункты ў в. Чудзяны, Ушакі, Вепрын, Бакунавічы Чэрыкаўскага, Дубравіца, Лапатавічы Клімавіцкага, Петухоўка Чавускага р-наў. У час наступлення Чырв. Арміі на дарозе Чэрыкаў — Краснаполле падбілі 8 варожых аўтамашын, утрымлівалі пераправу цераз Сож. 1.10.1943 атрад (207 партызан, без 3-й роты) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 721-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Чэрыкаўскага р-на. Створаны ў маі 1943. Камандзір А. М. Гарбаты, камісар А. В. Львоў. Партызаны ў ліп. 1943 падарвалі эшалон, 4 аўтамашыны, у вер. правялі 11 дыверсій і засад на дарогах. 1.10. 1943 атрад (248 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 760-ы ІМЯ́ М. БЕРАЗО́ЎСКАГА,** гл. *Партызанская брыгада 760-я імя М. Беразоўскага.*

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 820-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Быхаўскага р-на.

Створаны ў ліп. 1943 як асобны атрад Быхаўскай ВАГ. Камандзір І. І. Вараб'ёў, камісар В. Ц. Гадунцаў.

Партызаны ў час аперацыі «рэйкавая вайна» на ўчастку Быхаў — Рагачоў падарвалі 180 рэек. У жн. 1943 удзельнічалі ў разгроме варожых гарнізонаў у в. Камарычы, Тайманава, Балонаў-Сялец, Ямнае, у вер. 1943 — чыг. ст. Тошчыца (гл. *Тошчыцкі бой 1943*). 24.2.1944 атрад (442 партызаны) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д 830-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Быхаўскага, Кіраўскага і Рагачоўскага р-наў.

Створаны ў жн. 1943 як асобны атрад Быхаўскай ВАГ. Камандзір А. Х. Бархозаў, камісар І. Д. Стральцоў.

Партызаны асн. баявыя дзеянні правodзілі на чыг. і грунтавых дарогах. У вер. 1943 удзельнічалі ў разбурэнні чыгункі і ў разгроме гарнізона на чыг. ст. Тошчыца (гл. *Тошчыцкі бой 1943*), у студз.— у в. Меркулавічы. 24.2. 1944 атрад (162 партызаны) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д АГІТАЦЫ́ЙНЫ ІМЯ́ А. М. ГОРКАГА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Вілейскай вобл.

Створаны ў студз. 1944. Камандзіры У. І. Ціханаў, Ф. Р. Ягадзінскі; камісар А. С. Нікалаеў; нач. штаба Ягадзінскі, М. Г. Гняздзілаў.

Атрад праводзіў агітацыйна-масавую і прапагандысцкую работу сярод партызан і мясцовага насельніцтва, выступаў з канцэртамі і дакладамі аб становішчы на франтах Айч. вайны, пра баявыя дзеянні партызан. Толькі ў студз. 1944 выступіў з 28 канцэртамі. 4.7.1944 атрад (27 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «АЛЕ́СЯ».** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Клімавіцкага, Чэрыкаўскага і Крычаўскага р-наў.

Створаны ў чэрв. 1942. Камандзір А. Л. Кастроўскі (загінуў), камісар І. М. Пяроўскі.

Партызаны дзейнічалі самастойна і з дыверсійна-разведвальнай групай «Качубея» Зах. фронту. Спалілі 11 цыстэрнаў з гаручым. Правялі баі з ням. паліцыяй каля в. Старыя Жаркі Клімавіцкага р-на, з карнікамі каля в. Станкі Чэрыкаўскага р-на. 2.9. 1942 з партызанамі атрадаў «Валянціна Маёрава», «Чапай», групы «Качубея» пачалі рэйд з в. Дубравіца Клімавіцкага р-на за лінію фронту. 29.9.1942 атрад (33 партызаны) выйшаў у сав. тыл.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «АЛІ́МП»,** спецатрад НКДБ БССР. Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Віцебскай, Магілёўскай, Гомельскай абл. БССР, на Украіне, у Польшчы, Чэхаславакіі. Камандзір В. А. *Карасёў.* 11.2.1943 атрад (58 чал.) перапраўлены ў тыл ворага, прайшоў з баямі да Чэхаславакіі. Партызаны правялі каля 130 аперацый, пусцілі пад адхон 56 эшалонаў ворага, знішчылі 61 паравоз, 429 вагонаў і платформ, 7 самалётаў, 355 аўтамашын і танкаў, узарвалі і спалілі 27 чыг. і шашэйных мастоў, 8 прадпрыемстваў і складоў, разбурылі больш за 5 км чыг. палатна, каля 6 км тэлефонна-тэлеграфнай сувязі. 14.9.1943 узарвалі будынак оўруцкага гебітскамісарыята і знішчылі больш за 40 чыноўнікаў акупац. улад. У снеж. 1944 разам з славацкімі партызанамі каля г. Кошыцы знішчылі школу, у якой рыхтаваліся фаш. дыверсанты (забіта і ўзята ў палон больш за 200 чал.).

13.2.1945 атрад (2 тыс. чал.) злучыўся з Чырв. Арміяй. Камандзіру атрада Карасёву прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д П. А. АЛЫ́БІНА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Івянецкага, Валожынскага р-наў.

Створаны ў сак. 1944. Камандзір П. А. Алыбін; камісар Л. А. Устабашыдзе; нач. штаба П. Дз. Максімаў, А. Н. Рыжкоў.

Партызаны на чыг. участках Фаніпаль — Койданава і Маладзечна — Ліда падарвалі 3 варожыя эшалоны, на дарозе Мінск — Койданава знішчылі 3 аўтамашыны, 560 м тэлефонна-тэлеграфнай лініі, спалілі мост. 5.7.1944 атрад (108 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д АНА́НАВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Клімавіцкага і Крычаўскага р-наў. Створаны ў жн. 1941 Клімавіцкім РК КП(б)Б і палітаддзелам 13-й арміі з парт.-сав. актыву Крычаўскага р-на і асабовага складу Клімавіцкага знішчальнага атрада. Камандзір Ананаў (загінуў), камісар Кузьмін. У жн. 1941 у баі атрад рассеяны.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «АНАТО́ЛЯ».** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Чэрыкаўскага і Крычаўскага р-наў.

Створаны ў жн. 1941 у Чэрыкаўскім р-не з ваеннаслужачых (на дзень арганізацыі 32 партызаны). Камандзір Анатоль Грышын (псеўданім, сапр. прозвішча не высветлена, загінуў).

Частка атрада накіравалася на У каб выйсці ў сав. тыл. Партызаны, якія асталіся ў тыле ворага, загінулі ў баях з карнікамі 21—22.2.1942 каля в. Волчас Крычаўскага і Камаровічы Чэрыкаўскага р-наў.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «АРТУ́Р»,** спецатрад НКДБ СССР. Дзейнічаў у Айч. вайну на акупіраванай тэр. Аршанскага, Талачынскага, Лепельскага, Мінскага р-наў і ў Мінску.

Створаны летам 1943 у выніку аб'яднання 3 атрадаў: «Артур» (камандзір І. Ф. Залатар), «Гром» (камандзір Ф. Ф. *Азміцель*), «Дапамога» (камандзір Б. Л. *Галушкін*).

Падрыўнікі атрада пусцілі пад адхон 24 варожыя эшалоны, знішчылі і пашкодзілі 23 паравозы, 56 аўтамашын, 21 танк, вывелі са строю папяровую ф-ку, паравозарамонтны цэх, склад запчастак да авіяматораў у Барысаве, электрастанцыю і інш. 2.7.1944 атрад (больш за 300 чал.) злучыўся з Чырв. Арміяй. Азміцелю і Галушкіну прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д АСТАШО́НКА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Лагойскага і Плешчаніцкага р-наў.

Створаны ў сак. 1942 з асобных груп ваеннапалонных, якія не выйшлі з варожага акружэння, і мінскіх падпольшчыкаў (каля 70 чал.). Камандзір Асташонак, камісар П. Бінуш (загінуў).

На працягу сак.— крас. 1942 атрад (120 партызан) вёў актыўныя абарончыя баі, пацярпеў вял. страты і выйшаў з баявой зоны асобнымі групамі.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д БАГУШЭ́ЎСКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Віцебскай (Багушэўскі р-н) і Смаленскай абл.

Створаны ў жн. 1941 у Багушэўскім р-не з мясцовых камуністаў і камсамольцаў (18 чал.) на чале з сакратаром Багушэўскага РК КП(б)Б А. К. Стэльмахам і групы ваеннаслужачых на чале з П. С. Гапонцавым. Камандзіры Стэльмах, Гапонцаў; камісар У. Л. Агейчык.

У вер. 1941 партызаны ўдзельнічалі ў нападзе на г. п. Багушэўск (гл. *Багушэўскі бой 1941*), у баях з карнікамі падарвалі некалькі мастоў на шашы Віцебск — Орша. У кастр. 1941 атрад, адбіваючыся ад карнікаў, выйшаў у Смаленскую вобл., у пач. лютага 1942 злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «БАЕ́Ц».** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Халопеніцкага і Ільянскага р-наў.

Створаны ў ліп. 1943 з партызан, вылучаных брыгадамі Мінскай вобл. Камандзір Д. К. Бацяноўскі; камісар В. І. Верабей; нач. штаба М. М. Івакін, М. В. Смолін, М. Ф. Зорын.

Партызаны праводзілі асн. баявыя дзеянні на чыг. і шашэйных дарогах. У вер. 1943 падарвалі варожы танк. У складзе брыгады імя Фрунзе Вілейскай вобл. ў кастр. 1943 удзельнічалі ў разгроме варожага гарнізона ў райцэнтры Ілья. Зімой 1943—44 на дарозе Ілья — Вязынь вялі засадныя баі, знішчалі масты, тэлефонна-тэлеграфную лінію, рабілі завалы. На чыг. участку Маладзечна — Вільнюс пусцілі пад адхон 2 эшалоны з боепрыпасамі і жывой сілай. 27.6.1944 атрад (112 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «БАЛЬШАВІ́К».** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Хоцімскага р-на Магілёўскай, Клятнянскага і Мглінскага р-наў Арлоўскай абл.

Створаны ў чэрв. 1942 у сав. тыле. Камандзіры П. С. Антоненка (загінуў), М. М. Аўчыннікаў; камісары Аўчыннікаў, С. Д. Сянцюраў (загінуў), Дз. І. Іваноў.

У час рэйду ў Прапойскі р-н партызаны правялі 5 сустрэчных баёў. Перадыслацыраваліся ў Хоцімскі р-н, дзе ў жн.— кастр. 1942 разграмілі варожы гарнізон у в. Далісічы, 5 валасных упраў, падарвалі 3 эшалоны. У ліст. 1942 выйшлі з-пад удару карнікаў і перадыслацыраваліся ў Мглінскі р-н. У студз., лютым — чэрв. 1943 у Клятнянскім і Мглінскім р-нах удзельнічалі ў абарончых баях, вялі баі за прарыў блакады. У чэрв. перабраліся ў Хоцімскі р-н. 24.9.1943 правялі баі з карнікамі, якія спрабавалі спаліць в. Дубраўка, Сафонаўка, Глінішча, Дзядоўск. 26.9.1943 атрад (267 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «БАЯВЫ́»,** спецатрад НКДБ БССР. Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Асвейскага, Дрысенскага, Полацкага, Расонскага, Ашмянскага, Докшыцкага, Мядзельскага р-наў.

Створаны ў кастр. 1941 са спартсменаў добраахвотнікаў як дыверсійна-разведвальны атрад. З 7.3.1942 атрад (44 чал.) перапраўлены ў тыл ворага. Папоўніўся мясцовым насельніцтвам. Камандзіры А. С. Гарачоў, В. Л. *Няклюдаў*.

Партызаны пусцілі пад адхон 128 варожых эшалонаў, у т. л. 3 бронецягнікі, разбілі і папсавалі 102 паравозы, 1058 вагонаў і платформ, 113 аўтамашын і матацыклаў, 8 танкаў, 4 бронемашыны, 1 самалёт, узарвалі і спалілі 78 мастоў, 16 складоў, разбурылі 9,5 км чыг. палатна, больш за 6 км тэлефоннай сувязі.

20.7.1944 атрад (317 чал.) злучыўся з Чырв. Арміяй. Камандзіру атрада Някладаву прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1964 у в. Залессе Расонскага р-на у гонар атрада пастаўлена стэла.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «БАЯВЫ́» ІМЯ́ ДУНА́ЕВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Дзяржынскага, Уздзенскага, Капыльскага, Ганцавіцкага, Васілішкаўскага, Дзятлаўскага, Скідзельскага р-наў.

Створаны ў кастр. 1942, дзейнічаў у складзе партыз. брыгады 300-й імя Варашылава, у жн. 1943 перададзены партыз. злучэнню Беластоцкай вобл. У вер.— ліст. 1943 у складзе групы атрадаў П. П. *Капусты* зрабіў рэйд з Капыльскага р-на ў Ліпічанскую пушчу. Атраду прысвоена імя Дунаева (псеўданім І. М. Тараховіча — камандзіра атрада імя Чапаева 27-й брыгады імя Чапаева, загінуўшага ў баі). Камандзіры Б. В. Жаўрыд (загінуў), Я. П. Грыцаневіч; камісар П. А. Жылко; нач. штаба Грыцаневіч, В. М. Ёлкін, С. Ф. Крыжаноўскі, А. П. Цыбульскі, Дз. Р. Зайцаў, П. А. Рудзін.

Партызаны правялі 138 баёў, у т. л. каля в. Станькава Дзяржынскага р-на (9.1.1943), з карнікамі на р. Котра (14.11.1943). Летам 1943 удзельнічалі ў нападзе на гарнізон у г. п. Узда, у аперацыі «рэйкавая вайна», на чыг. участку Коласава — Негарэлае за ўвесь перыяд у дыверсіях і засадах знішчылі 113 мастоў, у т. л. 7 на чыгунцы, 24 аўтамашыны, разграмілі 8 маёнткаў, 2 з-ды, 82 прадпрыемствы, электрастанцыю, 30 складоў. У час рэйду ў Беластоцкую вобл. падарвалі больш за 320 рэек.

11.7.1944 атрад (203 партызаны) злучыўся з Чырв. Арміяй. У 1964 у в. Бераставіца Шчучынскага р-на ў гонар атрада пастаўлены абеліск.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д І. Ф. БЯЛЯ́ЕВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Багушэўскага р-на.

Створаны ў ліп. 1941 у сав. тыле і накіраваны ў Багушэўскі р-н. Камандзір І. Ф. Бяляеў.

У вер. 1941 разам з Багушэўскім партыз. атрадам партызаны ўдзельнічалі ў нападзе на камендатуру г. п. Багушэўск (гл. *Багушэўскі бой 1941*). У канцы 1941 атрад выйшаў за лінію фронту.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «ВАЛЯНЦІ́НА МАЕРАВА».** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Чэрыкаўскага, Клімавіцкага, Касцюковіцкага, Крычаўскага і Краснапольскага р-наў.

Створаны ў ліп. 1942. Атрад называўся па псеўданіму камандзіра П. І. Шмоніна («Валянцін Маёраў»). Камандзір П. І. Шмонін, камісар Я. Д. Траянаў.

Партызаны вялі баі самастойна і разам з інш. атрадамі. Разграмілі варожыя ўчасткі ў в. Гразівец, Дубравіна, Вепрын. У жн. 1942 на чыг. ст. Міхеевічы падарвалі стрэлкі і 20 м чыг. палатна. З партызанамі атрадаў «Чапай», «Алеся», групы «Качубея» 2.9.1942 пачалі рэйд з в. Дубравіца Клімавіцкага р-на за лінію фронту. 29.9.1942 атрад (30 партызан) выйшаў у сав. тыл.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ВАСІЛЕ́ВІЦКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Васілевіцкага р-на.

Створаны ў жн. 1941 на базе Васілевіцкага знішчальнага батальёна. Камандзіры А. А. Казлоў, А. З. Духанін; камісар У. К. Філончык.

Партызаны знішчалі масты на шашэйных і грунтавых дарогах, тэлефонна-тэлеграфную сувязь, нападалі на асобныя групы варожых салдат. У канцы вер. 1941 асн. частка атрада выйшла за лінію фронту, астатнія партызаны дзейнічалі ў раёне.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д А. Я. ВАСІЛЕ́ЎСКАГА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Барысаўскага, Бярэзінскага, Крупскага р-наў. Створаны ў чэрв. 1941 з парт.-сав. актыву (каля 60 чал.) Барысаўскага р-на. 29.6.1941 атрад у баі пад г. п. Беразіно пацярпеў вял. страты. Камандзір атрада А. Я. Васілеўскі (загінуў). Далейшы лёс атрада не ўстаноўлены.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «ВАСІ́ЛЬЕВА».** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Бярэзінскага р-на.

Створаны ў ліп. 1941 як знішчальны атрад, потым перайшоў на партыз. метады барацьбы. Атрад называўся па псеўданіму камандзіра С. В. Юрына («Васільеў»). Камандзір С. В. Юрын.

Партызаны ў ліп. 1941 каля в. Мачаск разграмілі варожую аўтакалону. У кастр. 1941 атрад выйшаў у сав. тыл.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «ВЕСТ»,** спецатрад НКДБ СССР. Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Ваўкавыскага, Гродзенскага, Поразаўскага, Ружанскага і інш. р-наў. У маі 1943 у Ганцавіцкі р-н Пінскай вобл. была дэсантавана група байцоў (20 чал.), адкуль яна выйшла ў раён баявых дзеянняў, колькасна вырасла і афармілася ў атрад. Камандзіры А. Г. Міронаў, Л. А. Агабекаў. Асноўныя ўдары атрад наносіў па транспартных камунікацыях праціўніка, удзельнічаў у баях з карнікамі. 14.7.1944 атрад (250 чал.) злучыўся з часцямі Чырв. Арміі.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ГА́НЦАВІЦКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Ганцавіцкага р-на. Створаны ў ліп. 1941. Камандзір Чуміла. Налічваў 35 чал. У жн. 1941 пацярпеў вял. страты і спыніў існаванне.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ГАРУ́ШКІНА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Клічаўскага і Кіраўскага р-наў. Створаны ў ліп. 1941 з ваеннаслужачых, якія не выйшлі з акружэння. Камандзір Гарушкін (загінуў). У цяжкіх баях атрад пацярпеў вял. страты ў асабовым саставе і пасля гібелі камандзіра ў жн. 1941 спыніў існаванне. Уцалелыя байцы вялі баі асобнымі групамі да вясны 1942, потым уліліся ў дзеючыя атрады.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «ГВА́РДЫЯ»,** спецатрад НКУС БССР. Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Вілейскай, Баранавіцкай і Брэсцкай абл. Арганізаваны ў сав. тыле (88 байцоў). Камандзір У. М. Воранаў. 15.3.1944 атрад перайшоў лінію фронту, выйшаў да месца асн. базіравання каля воз. Нарач. Дыверсіі праводзіў на транспартных камунікацыях праціўніка ў раёне Слоніма, Косава, Івацэвічы, Даманава, Іса, Коўча, Рудішкі і інш. 14.7.1944 атрад (колькасць не ўстаноўлена) злучыўся з часцямі Чырв. Арміі.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ГЛУ́СКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Глускага р-на.

Створаны ў ліп. 1941. Увосень 1941 частка атрада выйшла за лінію фронту, частка далучылася да атрада «Чырвоны Кастрычнік» Акцябрскага р-на. Камандзір М. С. Мартыновіч, камісар А. М. Канавалёнак.

Партызаны нападалі на асобныя групы варожых салдат, знішчалі тэлефонна-тэлеграфную сувязь, здабывалі звесткі разведкі і перадавалі Чырв. Арміі, падарвалі масты ў в. Баянічы, Слаўкавічы, Халопенічы.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «ГРОМ»,** спецатрад НКДБ СССР. Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Мінскай вобл. 20.5. 1943 атрад (23 чал.) перапраўлены ў тыл ворага. Камандзір Ф. Ф. *Азмі-*

цель. Атрад правёў шэраг баявых аперацый: байцы пусцілі пад адхон 27 эшалонаў ворага, знішчылі 45 аўтамашын, 6 танкаў, 14 трактароў, узарвалі 3 масты на аўтамагістралі Мінск — Масква, 8 складоў, 9 прадпрыемстваў, 15 разоў падрываўся падземны кабель сувязі «фронт — Берлін». У баях і засадах знішчана каля 2,5 тыс. салдат і афіцэраў праціўніка. Атрадам дабываліся і перадаваліся камандаванню Чырв. Арміі каштоўныя разведвальныя звесткі аб дыслакацыі ваенных аб'ектаў, перамяшчэнні войск праціўніка.

2.7.1944 атрад злучыўся з часцямі Чырв. Арміі. Камандзіру атрада Азміцелю прысвоена званне Героя Сав. Саюза (пасмяротна).

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «ГРО́МАВА».** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Карэліцкага, Навагрудскага і Лідскага р-наў.

Створаны ў крас. 1942 з ваеннаслужачых, якія не выйшлі з варожага акружэння. У стварэнні атрада актыўна ўдзельнічалі жыхары в. Цырын, Пудзіна, Літараўшчына, Бабанеўка, Падгайна. Атрад узначаліў лейт. У. Угрумаў («Громаў», загінуў).

Партызаны ў крас. і маі 1942 разграмілі гарнізон у в. Цырлін і захапілі зброю, у засадзе на шашы Навагрудак — Баранавічы разбілі 3 аўтамашыны, у баі ў в. Літараўшчына разбілі атрад карнікаў. У ліп. 1942 каля в. Пудзіна Лідскага р-на атрад ў баі пацярпеў вял. страты і быў рассеяны. Частка партызан пайшла ў атрад «Золатава» (гл. *Партызанская брыгада Першамайская*), астатняя частка да снеж. 1942 дзейнічала самастойнай групай, потым улілася ў атрад «Іскра» (гл. *Партызанская брыгада імя С. М. Кірава* Баранавіцкай вобл.).

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д І. С. ГУ́БІНА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Асіповіцкага, Акцябрскага, Капаткевіцкага, Парыцкага р-наў.

Створаны ў жн. 1941 у Асіповіцкім р-не з мясцовых патрыётаў і ваеннаслужачых, што трапілі ў акружэнне. У снеж. 1941 папоўніўся падпольшчыкамі з г. Бабруйск. Да ліп. 1943 дзейнічаў у 123-й Акцябрскай імя 25-годдзя БССР і 210-й Капаткевіцкай брыгадах. Камандзіры І. С. Губін (загінуў), Ц. Ц. Ульяшоў, А. Р. Волкаў; камісары У. М. Кавалёў (загінуў), І. Н. Кулей, І. М. Жукаў; нач. штаба А. С. Селіванаў, С. Д. Цемпякоўскі, Р. І. Валошын (в. а.).

Партызаны ўдзельнічалі ў разгроме варожых гарнізонаў у в. Вуглы, Шкава. У снеж. 1943 правялі бой з праціўнікам каля в. Лучыцы. У вер. 1943 і ў чэрв. 1944 удзельнічалі ў аперацыі «рэйкавая вайна» на чыг. участках Муляраўка — Клінск, Бабруйск — Старушкі. 3.7.1944 атрад (74 партызаны) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ДАВЫ́Д-ГАРАДО́ЦКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Давыд-Гарадоцкага, Тураўскага р-наў.

Створаны ў ліп. 1941 паводле рашэння Пінскага абкома КП(б)Б з парт.-сав. актыву і мясцовых жыхароў. Камандзір М. А. Скарабагацька, камісар М. К. Даўгулевіч.

Атрад у баях з ворагам пацярпеў значныя страты і ў 2-й пал. вер. 1941 накіраваўся за лінію фронту, каб злучыцца з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «ДАПАМО́ГА»,** спецатрад НКДБ СССР. Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Бягомльскага, Халопеніцкага, Барысаўскага, Смалявіцкага р-наў. 11.6.1943 атрад (23 чал.) перапраўлены ў тыл ворага. Папоўніўся з ліку патрыятычна настроенага мясцовага насельніцтва і байцоў Чырв. Арміі, якія ўцяклі з ням. палону. Камандзір Б. Л. *Галушкін*. Атрад правёў шэраг баявых аперацый: байцы пусцілі пад адхон 24 варожыя эшалоны, разбілі 23 паравозы, больш за 340 вагонаў і платформ, 78 аўтамашын, танкаў і трактароў, узарвалі і спалілі 6 складоў з боепрыпасамі і фуражом, ням. афіцэрскую сталоўку ў Халопенічах, разбурылі каля 3 км тэлефонна-тэлеграфных ліній сувязі. Забіта і паранена больш за 3 тыс. гітлераўскіх салдат і афіцэраў, 85 узята ў палон. Атрад здабываў і перадаваў камандаванню Чырв. Арміі разведвальную інфармацыю аб дыслакацыі засакрэчаных ваен. аб'ектаў праціўніка ў Мінску і яго наваколлі.

2.7.1944 атрад (170 чал.) злучыўся з часцямі Чырв. Арміі. Камандзіру атрада Галушкіну прысвоена званне Героя Сав. Саюза (пасмяротна).

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д Я. М. ДЗЮ́РБЫ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Віцебскай (Гарадоцкі і Мехаўскі р-ны), Калінінскай (Невельскі і Куньінскі р-ны) і Смаленскай (Ільінскі і Усвяцкі р-ны) абл.

Створаны ў жн. 1941. У чэрв. 1941 з Магілёва ў Полацкі р-н для арганізацыі партыз. руху накіравана група парт. работнікаў на чале з В. Я. *Чарнышовым*; яна аб'ядналася з групай ваеннаслужачых на чале з Я. М. Дзюрбой і І. В. Пратасавым у атрад (28 чал.), да якога далучыліся атрады Якуба (27 чал.) і Ільіна (21 чал.). Камандзір Дзюрба, камісар Пратасаў (загінуў).

21.1.1942 атрад (96 чал.) злучыўся з Чырв. Арміяй. Да 12.2.1942 у баявых парадках 54-й і 21-й брыгад 4-й ударнай арміі, потым расфарміраваны.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ДО́БРУШСКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Добрушскага, Чачэрскага, Кармянскага р-наў і Клятнянскага р-на Арлоўскай вобл.

Створаны вясной 1942 на базе групы М. М. Ігнатовіча [група 4.10.1941 па заданню ЦК КП(б)Б накіравана ў варожы тыл], разведвальнай групы А. П. Карабіцына і з мясцовых патрыётаў. На 26.1.1943 у атрадзе было 35 партызан. Камандзіры Ігнатовіч, Ф. І. Краўчанка. Да кастр. 1942 атрад дзейнічаў у Добрушскім, Чачэрскім і Кармянскім р-нах, потым перадыслацыраваўся ў Клятнянскі р-н і выйшаў у сав. тыл.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «ДРУГІ́Я»,** спецатрад НКДБ БССР. Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Быхаўскага, Бялыніцкага, Касцюковіцкага, Краснапольскага, Крычаўскага, Прапойскага, Кармянскага, Рэчыцкага, Рагачоўскага, Брагінскага, Васілевіцкага, Калінкавіцкага, Хойніцкага, Хоцімскага р-наў. 30.4.1942 атрад (43 чал.) перапраўлены ў варожы тыл. Камандзіры П. П. *Качуеўскі* (загінуў), М. В. *Зябніцкі*. У жн. 1943 на базе атрада (219 чал.) створаны 3 самастойныя спецгрупы: «Уперад» (камандзір П. М. Салодкі), «Кроўныя» (камандзір М. І. Краўчанка), «Дняпро» (камандзір М. В. Сонцаў). Партызаны пусцілі пад адхон 8 эшалонаў ворага, у т. л. браняпоезд, знішчылі і пашкодзілі 33 аўтамашыны, узарвалі і спалілі 24 масты, разбурылі больш за 1,5 км чыг. палатна, каля 7 км тэлефонна-тэлеграфнай сувязі, разграмілі 15 гарнізонаў. Перадавалі сав. камандаванню звесткі разведкі.

У ліст. 1943 атрад (29 чал.) злучыўся з Чырв. Арміяй. Камандзіру атрада Зябніцкаму прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д П. А. ДУ́ДАЛЯ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Бабруйскага, Старобінскага, Жыткавіцкага, Акцябрскага р-наў. У снеж. 1943 паводле ўказання Бабруйскага РК КП(б)Б з Бабруйскага знішчальнага атрада, які дзейнічаў на вызваленай Чырв. Арміяй тэрыторыі, вылучана група (32 чал.) і накіравана ў варожы тыл. Камандзір П. А. Дудаль. У ліп. 1944 атрад (71 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д Ц. Я. ЕРМАКО́ВІЧА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Чашніцкага р-на.

Створаны ў жн. 1941 з патрыётаў Чашніцкага р-на і ваеннаслужачых, якія не выйшлі з варожага тылу. Камандзір Ц. Я. Ермаковіч.

У жн. 1941 партызаны знішчылі і пашкодзілі некалькі мастоў і тэлефонна-тэлеграфную лінію ў Чашніцкім р-не. У вер. вялі бой каля в. Красналукі Халопеніцкага р-на, напалі на ням. камендатуру ў г. п. Халопенічы. У кастр. 1941 атрад аб'яднаўся з дыверсійнай групай Р. М. Лінькова.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д М. І. ЖУКО́ЎСКАГА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Чырвонаслабодскага р-на. Створаны ў ліп. 1941 на базе групы парт.-сав. актыву на чале з сакратаром Чырвонаслабодскага РК КП(б)Б М. І. Жукоўскім і групы пагранічнікаў, якія трапілі ў акружэнне. Атрад налічваў каля 60 партызан. У баях з ням.-фаш. карнікамі пацярпеў вял. страты і ў ліст. 1941 перастаў існаваць. Камандзір Жукоўскі загінуў.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д Д. А. ЖУРБЫ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Мсціслаўскага р-на. Створаны ў жн.

1941 у в. Слаўнае Мсціслаўскага р-на з асабовага складу нар. апалчэння Віцебска — рабочых ф-кі «КІМ». Камандзір Д. А. Журба, камісар Мяснікоў. Дзейнічаў у жн.— вер. 1941, потым разбіты карнікамі, частка партызан выйшла ў сав. тыл.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «ЗА РАДЗІ́МУ».** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Высокаўскага і Сямяціцкага р-наў.

Створаны ў маі — чэрв. 1944 з партызан, вылучаных асобным атрадам «Чэкіст». Камандзір П. І. Бародкін, камісар Дз. М. Маркаў, нач. штаба Г. Я. Бадокія.

Партызаны зрабілі 19 дыверсій і засад, падарвалі 4 эшалоны, 9 аўтамашын, у чэрв. 1944 вялі баі за выхад з акружэння. 28.7.1944 атрад (215 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «ЗА РАДЗІ́МУ».** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Тураўскага р-на.

Арганізаваны ў маі 1943 з партыз. груп, створаных у в. Тонеж і Букча Тураўскага р-на. Камандзір В. І. Прасолаў, камісар П. І. Тарасюк, нач. штаба І. М. Дваракоўскі.

Партызаны праводзілі баявыя аперацыі па знішчэнню варожага воднага транспарту на р. Прыпяць, гарнізонаў у в. Пераро́ў і г. п. Тураў. 31.1.1944 атрад (194 партызаны) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІВА́НАЎСКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Іванаўскага р-на. Створаны ў ліп. 1941. Камандзір Ражноў, камісар Міроненка. Спыніў існаванне ў кастр. 1941.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІВАНО́ВА — Я. Р. НАРО́ЕНКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Мехаўскага, Гарадоцкага і Суражскага р-наў. У ліп. 1941 Віцебскім абкомам КП(б)Б у раёне Вязьмы створаны 4 партыз. групы (Іванова, Я. Р. Нароенкі, Плюро, прозвішча камандзіра 4-й групы невядома). У жн. групы як адзін атрад перакінуты ў варожы тыл. Камандзір атрада Іваноў, камісар Нароенка. У кастр. 1941 атрад (50 чал.) выйшаў за лінію фронту.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ БАГДА́НА ХМЯЛЬНІ́ЦКАГА.** Дзейнічаў групамі на акупіраванай тэр. Бранскага, Бельскага, Цехановецкага р-наў.

Створаны ў кастр. 1943 на базе арганізатарскай групы М. Л. *Карабаня* і з партызан, вылучаных брыгадамі Мінскай і Пінскай абл. Камандзір М. У. Пальчэўскі, камісар К. А. Кульціясаў, нач. штаба В. Р. Казлякоўскі.

Асн. баявыя дзеянні партызаны праводзілі на варожых камунікацыях. Дыверсіямі і засадамі зрывалі перавозкі і знішчалі ням.-фаш. акупантаў, удзельнічалі ў баях супраць карнай экспедыцыі. 17.7.1944 атрад (128 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ С. М. БУДЗЁННАГА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Антопальскага, Бярозаўскага р-наў.

У кастр. 1941 на тэр. Польшчы ў раёне г. Бяла-Падляска сав. ваеннаслужачыя, якія ўцяклі з палону, стварылі партыз. групу на чале з Г. В. Шацковым (пазней яе ўзначаліў А. Р. Жураўлёў). Вясной 1942 група перайшла ў Косаўскі р-н Брэсцкай вобл., у жн. 1942 увайшла як 56-я група ў асобны атрад імя Шчорса. У крас. 1943 разгорнута ў самастойны атрад імя Будзённага. Камандзіры А. Р. Жураўлёў, К. Е. Мерзлякоў; камісары П. Р. Кавалёў, І. Е. Адаменка, П. К. Каламейцаў; нач. штаба Мерзлякоў, Г. В. Шацкоў.

Асн. баявыя дзеянні партызаны праводзілі на чыг. участках Брэст — Баранавічы і Брэст — Пінск. У жн.— кастр. 1943 і чэрв. 1944 падарвалі больш за 430 рэек, удзельнічалі ў разгроме апорнага пункта ў в. Пескі, гарнізона ў Антопалі. У крас. 1944 вялі абарончыя баі ў Бярозаўскім р-не. Пад аховай атрада былі 3 сямейныя лагеры (893 мясцовыя жыхары). 1.8.1944 атрад (209 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ С. М. БУДЗЁННАГА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Слонімскага, Ружанскага, Поразаўскага і Снядоўскага р-наў. Створаны ў жн. 1943 у брыгадзе 225-й імя Суворава Мінскай вобл.

Камандзіры М. М. Ізюмскі, А. Л. Куніцын, А. Ф. Барычаў; камісары І. Е. Сідаровіч, Ф. Л. Крайнік (в. а.), А. Е. Сарнычаў; нач. штаба Барычаў, А. У. Астрэйка.

У вер.— ліст. 1943 атрад у складзе групы атрадаў П. П. *Капусты* зрабіў баявы рэйд з Капыльскага р-на ў Ліпічанскую пушчу. У студз. 1944 перайшоў у Слонімскі, у сак.— у Ружанскі р-ны. Партызаны атрада правялі 61 бой, разграмілі гарнізоны ў в. Доктаравічы Капыльскага (жн. 1943), Плешкі Слонімскага (вясной 1944) і Варанілавічы Ружанскага (чэрв. 1944) р-наў. 20.9.1943 разбурылі 5 км вузкакалейкі на ўчастку Востраў — Крывошын. Удзельнічалі ў аперацыі «рэйкавая вайна» ў раёне ст. Даманава, Зэльва, Парэчча. Падарвалі 7 мастоў. 22.7—22.8.1944 атрад (205 партызан) групамі злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ П. Л. ВАЛЬКО́ВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Дзівінскага і Маларыцкага р-наў.

Створаны 3.10.1943 у Мінскай вобл. з 1-га эскадрона атрада «Баявы» *партызанскай брыгады «За Радзіму» імя А. К. Флегантава.* З 16.1.1944 дзейнічаў самастойна. Камандзір М. І. Чацверыкоў, камісар В. П. Асташонак. 12.7.1944 атрад (215 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ К. Я. ВАРАШЫ́ЛАВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Камарынскага р-на.

Створаны ў маі 1943 з часткі партызан атрада імя Катоўскага Палескай вобл. і групы І. А. Шэйна, якая прыбыла ў тыл ворага па заданню ЦК КП(б)Б і БШПР. Камандзір С. І. Філіпенка, камісар І. А. Шэйн, нач. штаба А. А. Петрусевіч.

Летам 1942 партызаны ў складзе асобнага атрада імя Катоўскага вялі баі па ліквідацыі апорных пунктаў ворага ў в. Хракавічы, Шкураты, знішчылі варожы гарнізон у в. Савічы Брагінскага р-на. У 1943 падарвалі шмат варожых аўтамашын з жывой сілай, 4 масты на шашы Брагін — Камарын, правялі бой з паліцыяй в. Людзвінова. 22.9.1943 атрад (81 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй. У 1958 у в. Радзін Хойніцкага р-на ў гонар атрада ўстаноўлена мемар. дошка.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ К. Я. ВАРАШЫ́ЛАВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Косаўскага і Бярозаўскага р-наў.

Створаны ў маі 1942 па ініцыятыве Брэсцкага міжраённага «Камітэта барацьбы з нямецкімі акупантамі» з партыз. групы б. члена КПЗБ Л. Р. Ждановіча, якая дзейнічала ў Бярозаўскім р-не з 1941, групы ваеннаслужачых на чале з І. С. Зайковым, членаў Блудзенскай падп. камсам. арг-цыі і інш. Камандзір Зайкоў, камісар Х. Муштарыеў.

Партызаны атрада ўдзельнічалі ў разгроме ням.-фаш. гарнізона ў г. Косава 3.8.1942 (гл. *Косаўскі бой 1942*). У жн.— вер. 1942 у баях з карнікамі атрад быў рассеяны. Асноўная частка яго асабовага складу выйшла ў Ленінскі р-н, дзе ў ліст. 1942 улілася ў фарміраваўшыйся атрад імя Чапаева *партызанскай брыгады імя У. І. Леніна* Пінскай вобл. У вер. 1942 атрад налічваў 65 чалавек.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ К. Я. ВАРАШЫ́ЛАВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Ратнаўскага, Шацкага р-наў Валынскай, Маларыцкага і Дзівінскага р-наў Брэсцкай абл.

Створаны ў крас. 1943. У жн. 1941 у Шацкім р-не Валынскай вобл. з мясцовых жыхароў і ваеннапалонных, што ўцяклі з лагераў, арганізавалася партыз. група, якую ўзначаліў С. А. Шкаварада. У маі 1942 яна аб'ядналася ў атрад з групай М. В. Глазінава, арганізаванай у вер. 1941 у Хелмскім павеце (Польшча) з ваеннаслужачых, што ўцяклі з палону (камандзір Глазінаў, камісар Шкаварада). У ліп. 1942 атрад Глазінава аб'яднаўся з атрадам Б. М. Міхайлоўскага (створаны ў крас. 1942 з груп ваеннаслужачых на чале з Міхайлоўскім, М. І. Варановічам і інш.) у атрад імя Варашылава. Камандзір Міхайлоўскі; камісар Шкаварада; нач. штаба Варановіч, Глазінаў.

Партызаны ў маі 1942 разграмілі варожыя апорныя пункты ў райцэнтрах Ратна і Дзівін, в. Макраны, Чарняны. Разам з Старасельскім атрадам партыз. брыгады імя Сталіна зрабілі баявы рэйд па Жабінкаўскім, Маларыцкім і Шацкім р-нах. У жн. 1942 пачаў рэйд у сав. тыл, правёў 4 баі. У баі на тэр. Драгічынскага р-на разгрупаваўся.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ Ф. Э. ДЗЯРЖЫ́НСКАГА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Чырвонаслабодскага, Целяханскага, Поразаўскага, Ломжынскага р-наў.

Створаны ў ліст. 1943 на базе арга-

нізатарскай групы А. П. Сакольчыка і з партызан, вылучаных брыгадамі Мінскай і Пінскай абл. Камандзіры І. А. Шушкоў, Г. С. Міснік; камісар Я. У. Нартыш-Блук; нач. штаба І. І. Манін, Шушкоў.

Партызаны зрабілі баявы рэйд з Любанскага р-на Мінскай вобл. ў Ружанскую пушчу. У студз. 1944 у в. Святая Воля Целяханскага р-на і ў сак. каля в. Вулька-Аброўская вялі баі з карнікамі. У маі 1944 з боем перасеклі чыг. Брэст — Масква, у чэрв. напалі на гарнізон в. Варанілавічы, у ліп. разграмілі некалькі асобных груп праціўніка. 12.7.1944 атрад (77 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ Ф. Э. ДЗЯРЖЫ́НСКАГА («ХАДАКІ»),** спецатрад НКУС СССР. Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Гомельскай, Палескай, Брэсцкай, Чарнігаўскай, Сумскай, Жытомірскай і Валынскай абл. Атрад вырас на базе дыверсійнай групы (15 чал.) Я. І. *Міркоўскага*, якая выйшла ў тыл ворага 31.3.1942. Асноўныя ўдары атрад наносіў па чыг. і шашэйных дарогах. Метадам дыверсій і засад зрываў транспартныя перавозкі праціўніка. Здабываў разведвальную інфармацыю на карысць Чырв. Арміі.

7—12.7.1944 атрад (больш за 700 чал.) злучыўся з часцямі Чырв. Арміі. Камандзіру атрада Міркоўскаму прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ А. А. ЖДА́НАВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Нясвіжскага, Стаўбцоўскага р-наў.

Створаны ў кастр. 1943. Камандзір А. С. Самойленка, камісар Ф. А. Усошын (загінуў), нач. штаба А. К. Фядзіоў.

Партызаны вялі адкрытыя і засадныя баі з ворагам, нападалі на яго гарнізоны, вялі баі з карнікамі. 4.7.1944 атрад (85 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ Г. К. ЖУ́КАВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Аўгустоўскага р-на Беластоцкай вобл.

Створаны ў жн. 1943 на базе арганізатарскай групы А. Д. Трацэўскага і з партызан, вылучаных брыгадамі Мінскай вобл. Камандзіры С. І. Талмачоў, П. Я. Пясоцкі; камісар М. З. Рагазінскі; нач. штаба І. І. Когут.

У складзе групы атрадаў П. П. *Капусты* зрабіў баявы рэйд з Капыльскага р-на Мінскай вобл. ў Беластоцкую вобл. Партызаны праводзілі аперацыі на чыг. і шашэйных дарогах, у ліст. 1943 і пачатку ліп. 1944 вялі баі супраць карнікаў. 19.7.1944 атрад (117 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ М. І. КАЛІ́НІНА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Дзяржынскага, Мінскага, Рудзенскага, Пухавіцкага, Старадарожскага р-наў.

Створаны ў сак. 1943. У снеж. 1943 атрад (476 партызан) разгорнуты ў *партызанскую брыгаду імя М. І. Калініна* Мінскай вобл. У сак. 1944 пры расфарміраванні брыгады зноў створаны атрад. Камандзіры Л. І. Сарока, А. М. Алейнік; камісар П. А. Сачок; нач. штаба А. Ф. Дубінін, І. Ф. Мілюцін.

Партызаны вялі разведку, нападалі на варожыя апорныя пункты, гарнізоны і камунікацыі. 14.9.1943 знішчылі штабных афіцэраў ням. авіячасці, 5.10.1943 падарвалі паравоз на чыг. участку Стоўбцы — Негарэлае. У крас.— маі 1944 правялі 16 баёў з ворагам. 1.7.1944 на р. Пціч каля в. Парэчча пабудавалі мост для пераправы мотастралк. дывізіі Чырв. Арміі. Удзельнічалі ў ліквідацыі мінскага «катла». 29.6.1944 атрад (300 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ М. І. КАЛІ́НІНА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Мастоўскага, Ваўкавыскага, Казлоўшчынскага р-наў. Створаны ў сак. 1944 з часткі асабовага складу расфарміраванай *партызанскай брыгады імя М. І. Калініна* і перададзены Баранавіцкаму партыз. злучэнню. З 17.4 да 26.5.1944 ажыццявіў рэйд з Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. ў Мастоўскі р-н Баранавіцкай вобл. Камандзір Л. І. Сарока (загінуў), камісар А. Д. Ламаноўскі, нач. штаба В. М. Пак. 14.7.1944 атрад (88 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ М. І. КАЛІ́НІНА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Навагрудскага р-на. Створаны ў маі 1944. Камісар І. В. Шаметавец, нач. штаба Л. А. Мольбін. 7.7.1944 атрад (296 партызан і 687 чал. сямейнага атрада) злучыўся з Чырв. Арміяй. У 1965 у Лідзе у гонар атрада пастаўлена стэла.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ М. І. КАЛІ́НІНА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Ружанскага, Слонімскага, Ваўкавыскага, Свіслацкага р-наў.

Створаны ў ліп. 1943 на базе арганізатарскай групы С. І. Сцяпанава. Камандзіры Сцяпанаў, С. Ф. Крыжаноўскі; камісары Р. С. Лук'янаў, І. Е. Сідаровіч, Е. Л. Петухоў; нач. штаба Б. С. Кірычэнка.

Партызаны праводзілі аперацыі на чыг. і шашэйных дарогах, падарвалі 6 мастоў, 20 аўтамашын, спалілі 4 маёнткі, з дапамогай сувязных зрабілі дыверсію на Ваўкавыскім цэментным з-дзе. 10—16.7.1944 атрад (170 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ М. І. КАЛІ́НІНА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Смалявіцкага р-на.

Створаны ў кастр. 1943 Смалявіцкім падп. РК КП(б)Б з жыхароў р-на. Камандзір І. В. Луферчык; камісар М. Р. Карпіновіч; нач. штаба І. В. Шымановіч, І. В. Буйко.

Партызаны ў крас.— чэрв. 1944 з брыгадай «Смерць фашызму» ўдзельнічалі ў абаронных і засадных баях, у ліп. 1944 — у ліквідацыі мінскага «катла». 2.7.1944 атрад (80 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ Р. І. КАТО́ЎСКАГА** (першага складу). Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Антопальскага, Бярозаўскага, Кобрынскага, Дзівінскага р-наў.

Створаны ў крас. 1943. Камандзіры Ф. К. Ляпічаў, А. В. Ляшчоў; камісары Ляшчоў, А. І. Марозаў; нач. штаба І. С. Хаменка.

У вер.— кастр. 1943 партызаны двойчы ўдзельнічалі ў разбурэнні чыг. ўчастка Кобрын — Гарадзец. 21.8. 1943 у Кобрыне знішчылі друкарню, 2.9.1943—ням.-паліцэйскі ўчастак, на ст. Гарадзец спалілі склад збожжа, падрыхтаванага акупантамі для адпраўкі ў Германію. Удзельнічалі ў абарончых баях у раёне Дняпроўска-Бугскага канала. 31.3.1944 асн. сілы атрада (448 партызан) злучыліся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ Р. І. КАТО́ЎСКАГА** (другога складу). Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Антопальскага, Дзівінскага, Касаўскага р-наў. Створаны ў маі 1944 на базе разведвальнай і дыверсійнай груп, якія



Партызаны атрада імя Р. І. Катоўскага на маршы.

дзейнічалі ў тыле праціўніка пасля злучэння ў сак. 1944 асн. сіл *партызанскага атрада імя Р. І. Катоўскага* (першага складу) з Чырв. Арміяй. Камандзір І. І. Пазнякоў, камісар К. М. Касымаў. У ліп. 1944 атрад (91 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ Р. І. КАТО́ЎСКАГА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Брагінскага, Камарынскага, Хойніцкага р-наў.

Створаны ў жн. 1942 у выніку аб'яднання партыз. груп, якія дзейнічалі ў Брагінскім р-не. Камандзіры С. І. Філіпенка, А. Я. Міхневіч; камісары Ф. І. Філіпенка (загінуў), П. Р. Зяновіч; нач. штаба Міхневіч, Ц. А. Крываносаў, І. Н. Мельнікаў.

Летам 1942 партызаны вялі баі па ліквідацыі апорных пунктаў ворага ў в. Хракавічы, Шкураты, гарнізонаў у в. Савічы, Радзін, Мікулічы, Баршчоўка. 22.7.1943 на дарозе Жэрднае — Выграбная Слабада разграмілі варожы транспарт, знішчылі Амель-

каўшчынскі шпаларэзны з-д, склады з боепрыпасамі ў Брагіне, Аравічах, Савічах і Астраглядах. З дапамогай мясцовых падпольшчыкаў знішчылі каменданта г. п. Брагін і яго прыслужнікаў. 24.11.1943 атрад (296 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй. У 1967 у в. Нежыхаў Брагінскага р-на ў гонар атрада пастаўлены абеліск.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ Р. І. КАТО́ЎСКАГА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Жлобінскага, Рагачоўскага і Быхаўскага р-наў і Клятнянскага р-на Арлоўскай вобл.

Створаны зімой 1941—42 з мясцовага насельніцтва Жлобінскага і Рагачоўскага р-наў. Камандзір Каленчанка, нач. штаба Рвачоў.

У вер. 1942 у баі з карнікамі адцяснёны ў Клятнянскі р-н. Далейшы лёс не высветлены.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ Р. І. КАТО́ЎСКАГА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Маладзечанскага, Ільянскага р-наў.



Сялянка вёскі Дзямідаўшчына Антопальскага р-на Н. П. Шыш праводзіць на баявое заданне свайго сына С. Ц. Шыша — камандзіра атрада імя С. М. Кірава і ўнукаў Васіля і Пятра.

Створаны ў ліст. 1943. Камандзір М. С. Рудэнка; камісар Ю. А. Дзамашвілі; нач. штаба У. І. Паўшкін, А. І. Марычаў.

Партызаны праводзілі баявыя аперацыі на чыг. участках Маладзечна — Вілейка, Маладзечна — Краснае, на шашэйных дарогах, вялі баі з карнікамі. У чэрв. 1944 разграмілі гарнізон у в. Раёўка Маладзечанскага р-на. 28.6.1944 атрад (61 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ С. М. КІ́РАВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Антопальскага р-на.

Створаны ў чэрв. 1943. Камандзіры П. Н. Паплаўскі (загінуў), С. Ц. Шыш; камісар Р. Я. Рэва; нач. штаба Шыш, Р. Д. Алендар.

Партызаны вялі баі па ліквідацыі апорных пунктаў ворага. 13.2.1943 каля в. Дзераўная знішчылі 5 варожых аўтамашын, захапілі 5 кулямётаў, больш за 30 вінтовак, разграмілі апорны пункт у в. Дзеткавічы, зрабілі напад на Антопальскі гарнізон. 12.7.1944 атрад (331 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ С. М. КІ́РАВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Лунінецкага р-на. Створаны як атрад «Пятровіча» у чэрв. 1942 шляхам аб'яднання партызанскай групы А. П. Савіцкага, вылучанай атрадам «Камарова» (гл. *Партызанская брыгада імя С. М. Будзённага* Пінскай вобл.), з групамі Ф. Д. Папова, П. М. Тараўкова, Р. І. Шуляка («Дымава»), А. А. Хацкевіча — А. П. Ермакова. Камандзір Савіцкі, камісар Ф. І. Лісовіч. У снеж. 1942 атраду прысвоена імя С. М. Кірава. У ліп. 1943 атрад разгорнуты ў *партызанскую брыгаду імя С. М. Кірава* Пінскай вобл.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ С. М. КІ́РАВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Ляхавіцкага і Клецкага р-наў.

Створаны ў жн. 1943 на базе групы добраахвотнікаў з б. сібірскіх партызан, якую ў жн. 1942 Новасібірскі абком ВКП(б) накіраваў у распараджэнне ЦК КП(б)Б. Камандзір М. І. Сабаеў, нач. штаба М. П. Тараховіч.

Партызаны зрывалі мерапрыемствы акупац. улад, праводзілі засадныя баі, рабілі дыверсіі, вялі паліт. агітацыю, ратавалі цывільнае насельніцтва ад загубы і вывазу на катаржныя работы ў Германію. У ліп. 1944 атрад (62 партызаны) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ С. М. КІ́РАВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Рэчыцкага і Васілевіцкага р-наў. Створаны ў маі 1943 на базе груп, вылучаных з атрадаў імя Варашылава (гл. *Партызанская брыгада Рэчыцкая імя К. Я. Варашылава*), «Бальшавік», імя Чапаева Гомельскай вобл. Атрад абслугоўваў штаб партыз. злучэння Гомельскай вобл. Камандзір атрада В. Я. Шытман; камісары В. М. Палянічка, Ф. Дз. Трыфанаў; нач. штаба І. С. Фралоў. 23.11.1943 атрад (251 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ М. І. КУТУ́ЗАВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Івянецкага і Любчанскага р-наў. Створаны ў крас. 1943. Камандзіры Р. П. Журэнка, І. Дз. Семін; камісар П. Ф. Харытонаў; нач. штаба П. М. Чатухін. 5.7.1944 атрад (121 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ М. І. КУТУ́ЗАВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Кляшчэльскага, Сямяціцкага, Высокаўскага, Косаўскага р-наў.

Створаны ў ліст. 1943. Камандзір В. Р. Машын, камісар Т. А. Шунько, нач. штаба Л. І. Паленаў.

Партызаны вялі баі з ворагам, зрывалі варожыя транспартныя перавозкі, ратавалі мірнае насельніцтва ад загубы і вывазу на катаржныя работы ў Германію. У чэрв. 1944 падарвалі 3 эшалоны, 22.6 і 11.7.1944 правялі баі ў Нурэцкім лесе (Сямяціцкі р-н) і на дарозе Косаў – Квасавічы (Польшча). 11.7.1944 атрад (107 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ П. К. ПАНАМАРЭ́НКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Дунілавіцкага, Глыбоцкага р-наў.

Створаны ў жн. 1943 з партызан, вылучаных Расонскай брыгадай імя Сталіна. Камандзіры М. І. Гачакоў, К. І. Мішын; камісар А. М. Мерсон; нач. штаба П. С. Вашчанка, М. А. Кузьменка, М. І. Паноў.

Партызаны ў маі 1943 разам з атрадам імя Сталіна знішчылі тэлефонна-тэлеграфную лінію Бяльмонты — Браслаў, у в. Бяльмонты разагналі ўзброеную ахову, знішчылі малочны з-д. Толькі ў жн. 1943 падарвалі 160 рэек і чыг. мост. 4.7.1944 атрад (206 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ І. В. СТА́ЛІНА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Пастаўскага і Браслаўскага р-наў.

Створаны ў крас. 1943 з партызан, вылучаных Расонскай брыгадай імя Сталіна. Камандзір Г. С. Громаў (загінуў); камісары І. М. Драздоў (загінуў), Г. М. Папоў; нач. штаба М. А. Кузьменка.

У крас. 1943 партызаны спалілі блок харчавання варожага гарнізона ў в. Замошша Браслаўскага р-на, пашкодзілі тэлефонна-тэлеграфную лінію Замошша — Браслаў, Еды — Казяны. У маі разам з атрадам імя Панамарэнкі разагналі ўзброеную ахову праціўніка ў в. Бяльмонты, у маі — вер. спалілі 14 мастоў на шашэйных дарогах, у жн. на ўчастку Паставы — Варапаева падарвалі больш за 260 рэек, знішчылі жывую сілу і тэхніку ворага. У кастр. 1943 у баях з карнікамі атрад рассеяны, частка асабовага складу ў ліст. 1943 уключана ў атрад імя Панамарэнкі.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ І. В. СТА́ЛІНА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Пухавіцкага, Рудзенскага, Мінскага р-наў.

Створаны ў чэрв. 1942 на базе партыз. групы У. П. Адамовіча. З кастр. 1942 у 2-й Мінскай брыгадзе, з чэрв. 1943 у брыгадзе «Беларусь», з студз. 1944 дзейнічаў самастойна. Камандзір Адамовіч, камісар С. К. Доўнар, нач. штаба М. В. Шкутко.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунцы Мінск — Асіповічы, шашы Мар'іна Горка — Шацк, грамілі валасныя ўправы. У кастр. 1942 спалілі мост на р. Пціч, 4 прадпрыемствы. У жн. 1943 падарвалі 360 рэек. У крас. 1944 вялі баі супраць карнікаў. 2.7.1944 атрад (288 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АРТА́Д ІМЯ́ І. В. СТА́ЛІНА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Ружанскага і Пружанскага р-наў.

Створаны ў студз. 1942 на базе груп А. Журбы, М. Е. Крыштафовіча, Р. К. Дарафеева, П. К. Задоры, Ф. П. Гарланава, П. І. Масалова, В. Ф. Місюлі, якія дзейнічалі з лета 1941. Камандзір атрада Гарланаў, камісар Масалоў, нач. штаба Р. К. Дарафееў.

Партызаны вялі баі па ліквідацыі

варожых гарнізонаў, праводзілі дыверсіі на дарогах. У чэрв. і жн. 1942 знішчылі гарнізон у в. Руднікі, масла-завод у в. Магілёўцы, маёнтак каля Ружан, 2 аўтамашыны, 22 км тэлефонна-тэлеграфнай сувязі, разбурылі 6 мастоў на дарозе Ружаны — Сялец і на р. Ясельда. У вер. вялі баі з карнікамі. З вер. 1942 пасля баёў з карнікамі дзейнічаў асобнымі групамі, якія пазней уліліся ў атрад імя Кірава брыгады імя Панамарэнкі і атрад імя Чкалава брыгады «Савецкая Беларусь» Брэсцкай вобл.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ А. В. СУВО́РАВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Барысаўскага р-на.

Створаны ў вер. 1943 на базе груп, вылучаных з брыгад імя Панамарэнкі і «Дзядзькі Колі». Камандзіры П. Р. Півавараў, А. М. Аліеў; камісар П. У. Лаўрыновіч, нач. штаба Л. У. Афонін.

Партызаны праводзілі аперацыі на чыг. участку Крупкі — Жодзіна, шашэйных дарогах. 25.10.1943 каля в. Лесунова Барысаўскага р-на знішчылі 5 варожых аўтамашын, 2.1.1944 — 3 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі. У Барысаве падарвалі і спалілі 8 цыстэрнаў гаручага, перасоўную радыёстанцыю. 27.6.1944 атрад (120 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ А. В. СУВО́РАВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Хойніцкага р-на.

Створаны ў сак. 1943 з партызан атрада «Бальшавік» Гомельскай вобл. Камандзір К. Т. Сацура, камісар М. Ф. Снягір, нач. штаба А. В. Ломаў.

Партызаны праводзілі аперацыі пераважна на чыг. участку Хойнікі — Васілевічы. У аперацыі «рэйкавая вайна» падарвалі больш за 1 тыс. рэек. Знішчылі гарбарны і тарфяны з-ды, лесасклад. Правялі бой з праціўнікам каля в. Вялікі Бор. 20.11.1943 атрад (487 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй. У 1959 у в. Амелькаўшчына Хойніцкага р-на ў гонар атрада ўстаноўлена мемар. дошка.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ Э. ТЭ́ЛЬМАНА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Высокаўскага, Сямяціцкага р-наў.

Пачаў арганізоўвацца ў кастр. 1941 у Высокаўскім р-не з байцоў і камандзіраў 212-га палка, якія не выйшлі з акружэння, і жыхароў в. Кусічы, Агароднікі і інш. Камандзір — М. І. Каваленка.

19.5.1942 атрад рушыў на ўсход для злучэння з Чырв. Арміяй. Каля м. Жалудок Баранавіцкай вобл. разгрупаваўся на асобныя групы. Група пад камандаваннем Каваленкі прыбыла ў ліп. 1942 у Бягомльскі р-н і ўлілася ў атрад «Рамана» (гл. *Партызанская брыгада «Жалазняк»* Мінскай вобл.). Група на чале з М. В. Чарапанавым выйшла ў Лагойскі р-н і аб'ядналася з партызанскай групай Б. У. Мацюгіна ў атрад «За Радзіму» (гл. у арт. *Партызанская брыгада імя М. В. Фрунзе* Вілейскай вобл.). У чэрв. 1942 у атрадзе было 40 партызан.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ Э. ТЭ́ЛЬМАНА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Поразаўскага, Гайнаўскага, Бельскага, Сямяціцкага р-наў. Створаны ў кастр. 1941. Камандзіры В. Т. Канцандалаў (загінуў), І. І. Крылоў (загінуў). Партызаны дыверсіямі ў раёне чыг. станцый Гайнаўка, Чарэмха зрывалі транспартныя перавозкі ворага, вялі паліт. работу сярод насельніцтва. У маі 1942 атрад вёў цяжкія баі ў Гайнаўскім і інш. р-нах, дзе быў акружаны карнікамі. Пасля гібелі камандзіра атрад групамі выходзіў з акружэння. Частка партызан улілася ў партыз. атрад В. А. Васільева Брэсцкай вобл., другая частка — летам і восенню 1943 у асобны атрад імя Калініна і брыгаду «У імя Радзімы» Беластоцкай вобл.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ В. І. ЧАПА́ЕВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Быценскага і Косаўскага р-наў.

Створаны ў студз. 1942. Камандзір М. С. Фядотаў, камісар Я. Ф. Гусеў, нач. штаба Г. М. Мулаянаў.

З крас. 1942 вёў актыўныя дзеянні па ліквідацыі варожых гарнізонаў, валасных упраў, с.-г. маёнткаў у Быценскім, Косаўскім і Слонімскім р-нах. 10.8.1942 разграміў (разам з атрадам імя Шчорса) гарнізон і кулямётную школу ў в. Гавінавічы Быценскага р-на. У канцы жн.— пач. вер. вёў баі супраць карнікаў 1-й мотапях. брыгады СС, правёў 6 цяжкіх і працяглых баёў у акружэнні, знішчыў 421 салдата праціўніка і сам пацярпеў страты. З акружэння выходзіў асобнымі групамі. Група на чале з Я. Ф. Гусевым (больш за 60 чал.) ўлілася ў асобны атрад «Савецкая Беларусь» (гл. *Партызанская брыгада імя П. К. Панамарэнкі* Брэсцкай вобл.), другая група на чале з М. С. Фядотавым (14 чал.) выйшла ў Пінскую вобл. (улілася ў *партызанскую брыгаду імя У. І. Леніна* Пінскай вобл.). У вер. 1942 у атрадзе было 207 партызан.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ В. І. ЧАПА́ЕВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Хойніцкага р-на.

Створаны ў сак. 1943 на базе ініцыятыўнай групы В. Р. Карася, вылучанай партыз. злучэннем Гомельскай вобл. Камандзіры В. Р. Карась (загінуў), М. А. Жукаў; камісар Ф. Р. Рудчанка; нач. штаба Б. А. Арлоў.

Партызаны правялі баявыя аперацыі пад Хойнікамі, у в. Судкова, у аперацыі «рэйкавая вайна» на чыг. участку Хойнікі — Васілевічы падарвалі больш за 600 рэек. 25.11.1943 атрад (427 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй. У 1972 каля в. Бабчын Хойніцкага р-на ў гонар атрада пастаўлена стэла.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ В. П. ЧКА́ЛАВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Невельскага р-на Калінінскай вобл. і Расонскага р-на БССР.

Створаны ў ліп. 1941 у Невельскім р-не. Камандзір С. Дз. Пенкін, камісар В. А. Паўтаў, нач. штаба І. І. Сяргунін.



Дыверсійная група 1-й роты партызанскага атрада імя С. М. Кірава. Студзень 1944.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунцы Полацк — Пскоў, дарогах Полацк — Невель, Себеж — Невель, Тапары — Вял. Залогі і інш. У вер. 1941 удзельнічалі ў баі з карнікамі. У канцы кастр. атрад пакінуў раён баявых дзеянняў, і ў ліст. 1941 частка партызан улілася ў 2-ю Асобную брыгаду Калінінскай вобл., частка выйшла ў сав. тыл.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ І. І. ЧУКЛА́Я.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Ленінскага р-на.

Створаны ў вер. 1943. Камандзір

П. Р. Катовіч; камісар І. У. Доваль; нач. штаба Ф. Дз. Грынь, І. А. Очкусь.

Да лют. 1944 партызаны неслі службу па ахове штаба Пінскага партыз. злучэння і партыз. аэрадрома каля в. Ленін. У лют. 1944 на чыгунцы Лунінец — Баранавічы каля ст. Люшча падарвалі 500 м чыг. палатна, у чэрв. на ўчастку ст. Бастынь — Люшча — 600 м і 25 вагонаў. У маі 1944 удзельнічалі ў абароне в. Ленін. У ліп. 1944 збілі самалёт. 8.7.1944 атрад (123 партызаны) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ІМЯ́ М. А. ШЧО́РСА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Бярозаўскага, Ружанскага, Пружанскага, Касаўскага, Драгічынскага, Дзівінскага, Быценскага, Слонімскага, Ганцавіцкага, Ленінскага і Старадарожскага р-наў.

Створаны ў маі 1942. Камандзіры П. В. Пранягін, М. П. Канавалаў, В. Ф. Гужэўскі; камісары Р. А. Дудко, П. Р. Кавалёў, А. С. Авецісян (в. а.), С. С. Жарыкаў, С. Я. Ягораў, Р. Я. Рэва, В. А. Несцярэнка; нач. штаба К. Е. Мерзлякоў, Гужэўскі, Дз. Я. Зуеў.



Мост цераз р. Мухавец за 2 км ад Брэста, узарваны партызанамі атрада імя М. А. Шчорса. 1943.

Партызаны знішчылі 10 прамысловых прадпрыемстваў, складоў, 12 вузлоў сувязі, разграмілі 17 гарнізонаў, паліцэйскіх участкаў і ўпраў, у т. л. ў ноч на 3.8.1942 разам з 2 інш. атрадамі гарнізон у горадзе Косава (гл. *Касаўскі бой 1942*), 1.9.1942 у в. Чамелы знішчылі камендатуру, ахову моста (50 чал.), спалілі мост цераз р. Шчара (удзельнічала 35 партызан з атрадаў 112-га і 113-га). 11.9.1942 атрад правёў 10-гадзінны бой у акружэнні паміж в. Вяда і Сямычынскімі хутарамі Быценскага р-на, выйшаў з акружэння, правёў бой на 10-м шлюзе Агінскага канала (знішчыў каля 100 ням. салдат; гл. *Агінскі бой 1942*), у канцы снеж. 1942 зрабіў напад на г. Старыя Дарогі. На чыгунцы Брэст — Баранавічы, Брэст — Лунінец, Брэст — Ковель партызаны падарвалі 127 паяздоў, 1062 рэйкі, на чыгунках і аўтадарогах — 33 масты. З асабовага складу атрада дадаткова створаны атрады «Савецкая Беларусь» (гл. ў арт. *Партызанская брыгада імя П. К. Панамарэнкі*) і асобныя партыз. атрады імя Будзённага і імя Катоўскага Брэсцкай вобл. (гл. адпаведныя артыкулы). 31.3.1944 атрад (340 партызан) фарсіраваў р. Прыпяць каля в. Шчаціна Ратнаўскага р-на на ўчастку наступлення 160-й стралк. дывізіі 70-й арміі і з 5 па 20 сак. ў яе палосе вёў баявыя дзеянні. Расфарміраваны 27.4.1944.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д П. Е. КАЗАНА́КАВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Дрыбінскага і Мсціслаўскага р-наў Магілёўскай, Манастыршчынскага, Хіславіцкага р-наў Смаленскай вобл.

Створаны ў маі 1942. Камандзір П. Е. Казанакаў, камісар М. Л. Язычэнка.

Партызаны абстралялі 2 варожых эшалоны, разбілі 2 аўтамашыны, разграмілі 5 валасных упраў. Вялі баі каля в. Каменка, Войніна Манастыршчынскага, Шамаўшчына Мсціслаўскага, Цёмны Лес Дрыбінскага р-наў. 30.9.1942 атрад (44 партызаны) выйшаў у сав. тыл.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д С. І. КАЗЛО́ВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Кляшчэльскага, Шарашоўскага, Гайнаўскага р-наў.

Створаны ў сак. 1942. Камандзір С. І. Казлоў. Партызаны вялі баі ў раёне чыг. ст. Чарэмха і г. п. Камянец. 3.7.1942 у час выхаду з акружэння ў баях каля г. п. Зэльва мелі страты, частка атрада на чале з Казловым выйшла ў Багушэўскі р-н і ўлілася ў атрад В. П. Комлева (гл. *Партызанская брыгада 1-я імя К. С. Заслонава).*

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д КАЛІ́НКАВІЦКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Калінкавіцкага р-на. Створаны ў жн. 1941. Камандзіры І. С. Бáброў (загінуў), Вергіенка; камісар Б. С. Катцен. У кастр. 1941 атрад групамі выйшаў за лінію фронту.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д М. П. КАНСТАНЦІ́НАВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Грэскага, Жыткавіцкага, Акцябрскага, Любанскага р-наў.

Створаны ў ліп. 1941 на базе групы парт.-сав. актыву Грэскага р-на на чале з заг. ваен. аддзела Грэскага РК КП(б)Б У. І. *Зайцам* і групы ваеннаслужачых на чале з лейт. М. М. Лібянковым, якая вылучылася з Чырвонаслабодскага партыз. атрада М. І. Жукоўскага. У вер. 1941 у атрад улілася група ген.-маёра М. П. *Канстанцінава*, якая прыбыла з Заслаўскага р-на. Камандзір Лібянкоў, Канстанцінаў, М. П. Канавалаў, Д. А. Скляр; камісар Заяц.

Атрад спачатку дзейнічаў самастойна, у сак. 1942 увайшоў у склад партыз. злучэння Мінскай вобл. Вёў баі з ням.-фаш. карнікамі ў Грэскім р-не (1941), разграміў некалькі варожых гарнізонаў, у т. л. ўдзельнічаў у разгроме гарнізона ў в. Пасталы Жыткавіцкага р-на (2.4.1942), у баі з карнікамі ў Акцябрскім р-не (канец крас. 1942). У кастр. 1942 атрад расфарміраваны. У 1974 на месцы спаленай фаш. карнікамі в. Крушнік Слуцкага р-на ў гонар атрада пастаўлены помнік.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д І. П. КАРО́ТЧЫКАВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Буда-Кашалёўскага р-на.

Сфарміраваны ў вер. 1942 у сав. тыле з дыверсійных груп. Камандзір І. П. Каротчыкаў, нач. штаба М. К. Стош.

На шляху да месца прызначэння з атрада вылучыліся арганізатарскія групы. 29.9.1942 групы Каротчыкава і М. Ц. Сідняўца прыбылі ў Буда-Кашалёўскі р-н і папоўніліся партызанамі з мясцовага атрада. У ліст. 1942 большасць партызан атрада ўвайшла ў партыз. злучэнне А. Ф. Фёдарава Чарнігаўскай вобл.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д КАЧЫШЧА́НСКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Ельскага р-на. Створаны ў жн. 1941. Камандзір Ф. М. Руцкі, камісар А. С. Мішчанка. Партызаны знішчалі масты, тэлефонна-тэлеграфную сувязь, вялі паліт. работу сярод насельніцтва. У кастр.— ліст. 1941 частка атрада выйшла за лінію фронту, у раёне асталася дзейнічаць падп. Качышчанская група з 22 чал. (гл. *Партызанская брыгада 37-я Ельская).*

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д КІРЫ́ЛЫ ІВА́НАВІЧА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Гайнаўскага і Сямяцінскага р-на. 19.5.1942 вёў баі з карнікамі. Налічваў 73 партызаны.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д М. ДЗ. КО́ХАВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Дрыбінскага р-на. Створаны ў жн. 1942 на базе груп М. Дз. Кохава, В. В. Уласава, Ц. Я. Сакалоўскага, накіраваных у ліп. 1942 Паўн.-Зах. аператыўнай групай ЦК КП(б)Б у варожы тыл. Камандзір Кохаў. Пазней адцяснёны ворагам у Слабадскі р-н Смаленскай вобл. 2.11.1942 атрад (50 партызан) выйшаў у сав. тыл.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д І. М. КУ́ЗІНА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Бягомльскага р-на. Створаны ў студз. 1942 у сав. тыле як дыверсійны (67 чал.). Камандзір І. М. Кузін. 16.8. 1942 выйшаў у сав. тыл.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ЛЕ́ЛЬЧЫЦКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Лельчыцкага р-на. Створаны ў ліп. 1941. Камандзір П. Ц. Лішафаеў, камісар Я. Ш. Эрлах. Партызаны надрывалі масты, знішчалі тэлефонна-тэлеграфную сувязь, вялі паліт. работу сярод насельніцтва. У ноч на 4 вер. каля Лельчыц правялі бой з ням. войскамі. У вер. 1941 пасля баёў з карнікамі асн. частка атрада выйшла за лінію фронту, частка асталася дзейнічаць.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ЛУНІНЕ́ЦКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Лунінецкага і Старобінскага р-наў.

Створаны ў ліп. 1941 паводле рашэння Пінскага абкома КП(б)Б з парт.-сав. актыву рабочых Лунінецкага р-на. Камандзір У. І. Анісімаў (загінуў).

Партызаны на чыг. участку Люшча — Бастынь падарвалі 2 масты, знішчылі бронемашыну. У вер. 1941 атрад невял. групамі накіраваўся да

лініі фронту. Далейшы лёс не высветлены.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д МАЗЫ́РСКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Мазырскага р-на. Створаны ў жн. 1941. Камандзір М. І. Макаранка, камісар П. І. Шчаслаўскі. Партызаны знішчалі масты, тэлефонна-тэлеграфную сувязь, прадпрыемствы, памагалі перайсці лінію фронту воінам Чырв. Арміі, што трапілі ў акружэнне, вялі паліт. агітацыю сярод насельніцтва. У кастр. 1941 пасля баёў з карнікамі асн. частка атрада выйшла за лінію фронту, частка асталася дзейнічаць у раёне.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «МАКА́РА».** Створаны ў ліп. 1941 камандзірам 628-га арт. палка з афіцэрскага саставу часці. Камандзір — палк. «Макар» (псеўданім, прозвішча не ўстаноўлена). Дзейнічаў у ліп.— жн. 1941 на акупіраванай тэр. Клічаўскага, Бялыніцкага і Магілёўскага р-наў. Далейшы лёс не высветлены.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д МА́ХНАВІЦКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Ельскага р-на.

Створаны ў жн. 1941. Камандзір Я. Ф. Ганчарэнка, камісар Я. Д. Перлаў. Партызаны атрада знішчалі масты, тэлефонна-тэлеграфную сувязь, вялі паліт. агітацыю сярод насельніцтва. У пачатку кастр. 1941 у выніку баёў з карнікамі атрад рассеяны, частка партызан далучылася да Капышчанскага атрада.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «МЕЧ».** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Віцебскай вобл.

Створаны ў чэрв. 1942 у сав. тыле і накіраваны ў Асіповіцкі р-н. Камандзір К. А. Сіпякоў, камісар Е. Я. Стрыжакоў, нач. штаба В. М. Бутрамееў.

У ліп.— жн. 1942 на шляху да месца прызначэння партызаны вялі баявыя аперацыі супраць карнікаў у Лёзненскім і Багушэўскім р-нах. Разграмілі валасную ўправу ў в. Кабылнянка Лёзненскага р-на, вялі засадныя баі на шашы Орша — Віцебск, Сянно — Багушэўск і абарончыя каля в. Цялыш, Нярэйша, Заважанне Багушэўскага р-на. У жн. 1942 у баях з карнікамі ў Багушэўскім р-не атрад рассеяны, частка яго ў кастр. 1942 выйшла ў сав. тыл.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «МСЦІ́ВЕЦ».** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Барысаўскага, Рудзенскага, Пухавіцкага, Дзяржынскага, Старадарожскага, Мінскага і Маладзечанскага р-наў.

Створаны ў ліст. 1942 у Маскве і накіраваны ў варожы тыл. З сак. 1943 у брыгадзе «Беларусь» Мінскай вобл., з чэрв. 1943 дзейнічаў самастойна. Камандзіры К. В. Сідзякін, М. М. Дзягілёў; камісары Дзягілёў, М. С. Абрамаў; нач. штаба Ф. Г. Шыхаўцоў, Абрамаў, В. В. Мусорын.

Партызаны ў маі 1944 на чыг. участках Стоўбцы — Коласава, Мінск — Рудзенск падарвалі 14 эшалонаў, 24 чэрв. на ўчастку Седча — Рудзенск з атрадам «Беларусь» — бранепоезд, у маі 1944 на шашы Мінск — Слуцк — 4 аўтамашыны, знішчылі больш за 13 км тэлеграфна-тэлефоннай лініі. Удзельнічалі ў баях каля в. Кутляны Маладзечанскага (крас. 1943), Дудзічы Рудзенскага (жн. 1943), Асееўка, Міханавічы (вер. 1943), Залессе (кастр. 1943) Мінскага р-наў. У час наступлення Чырв. Арміі вялі баі каля в. Омельна, Ліпнікі Пухавіцкага р-на. 3.7.1944 атрад (185 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «МЯСЦО́ВЫЯ»,** спецатрад НКДБ СССР. Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Барысаўскага, Мінскага, Лагойскага, Слуцкага, Смалявіцкага, Уздзенскага, Чэрвеньскага, Бярэзінскага, Рудзенскага р-наў. 20.3.1942 група (23 чал.) перапраўлена ў варожы тыл. Камандзір С. А. *Ваўпшасаў* (Градаў). Байцы пусцілі пад адхон 187 эшалонаў ворага, знішчылі і пашкодзілі 160 аўтамашын, 69 танкаў, 28 гармат, 15 матацыклаў, 2 самалёты, 3 радыёстанцыі, нафтабазу, 2 склады з боепрыпасамі, 42 шашэйныя і чыг. масты, 10 км тэлефонна-тэлеграфных ліній, разграмілі 16 варожых гарнізонаў. З 26.10. 1943 пры атрадзе базіраваўся Мінскі падп. гарком КП(б)Б. Атрад меў цесную сувязь з *Мінскім партыйным падполлем*, арганізаваў у Мінску больш за 120 канспіратыўных кватэр, накіроўваў дыверсійную і разведвальную дзейнасць падп. груп у Мінску і Слуцку. Партызаны перадавалі камандаванню Чырв. Арміі звесткі разведкі, у т. л. пра падрыхтоўку наступлення ням.-фаш. войск у раёне Курскай дугі.

2.7.1944 атрад (1300 чал.) злучыўся з Чырв. Арміяй. Камандзіру атрада Ваўпшасаву прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «НАВА́ТАРЫ»,** спецатрад НКДБ БССР. Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Баранавіцкай і Гродзенскай абл., базіраваўся ў Мастоўскім р-не. 12.9.1943 група (6 чал.) закінута ў Ліпічанскую пушчу. Папоўнілася мясцовым насельніцтвам. Камандзір У. М. Літвінскі. Партызаны пусцілі пад адхон некалькі дзесяткаў эшалонаў ворага, знішчылі 8 аўтамашын, бронемашыну, чыг. мост, лесазавод у г. п. Дзятлава, удзельнічалі ў разбурэнні чыгункі. Перадавалі камандаванню Чырв. Арміі звесткі разведкі, вялі паліт. работу сярод салдат варожых фарміраванняў. 12.7.1944 атрад (126 чал.) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д НАРАЎЛЯ́НСКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Нараўлянскага р-на. Створаны ў жн. 1941. Камандзір Іўчанка, камісар Г. Р. Чарняўскі. Партызаны падрывалі і палілі масты, рабілі дыверсіі, знішчалі тэлефонна-тэлеграфную сувязь, вялі паліт. работу сярод насельніцтва. У пач. ліст. 1941 частка атрада выйшла за лінію фронту, частка перайшла ў падполле.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «ПАДДУ́БНАГА».** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Поразаўскага р-на.

Створаны ў вер. 1941 на базе груп падпольшчыкаў і ваеннаслужачых, якія дзейнічалі з ліп. 1941. У жн. 1942 атрад налічваў 179 партызан. Камандзір В. В. Янушка (псеўданім Паддубны).

У вер. 1942 атрад вёў баі з карнікамі, выйшаў з блакады асобнымі групамі, якія пазней уліліся ў асобны атрад «Савецкая Беларусь» і ў брыгаду імя Панамарэнкі (у яе складзе на базе груп быў створаны атрад імя Кірава) Брэсцкай вобл.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д В. ПАПО́ВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Барысаўскага і Халопеніцкага р-наў.

Створаны восенню 1941 з ваеннаслужачых, якія не выйшлі з варожага тылу або ўцяклі з палону. Камандзір В. Папоў.

Атрад базіраваўся каля в. Зачысце Барысаўскага р-на, вёў актыўныя баявыя дзеянні на палявых і шашэйных дарогах. Раптоўнымі налётамі і засаднымі баямі зрываў вываз сельгаспрадуктаў і жывёлы для патрэб ням.-фаш. арміі. Пасля працяглых баёў з карнікамі 4.11.1941 каля в. Каменка Халопеніцкага р-на выйшаў асобнымі групамі ў раён сваіх баз. Адна група (12 чал.) на чале з б. старшынёй Барысаўскага гарвыканкома М. І. Кудзіновічам улілася ў *партызанскі атрад І. А. Яраша.* Пасля цяжкіх баёў з карнікамі (10.3.— 15.4. 1942) па рашэнню камандавання атрад выйшаў з баявой зоны асобнымі групамі і як баявая адзінка перастаў існаваць.



Палітрук партызанскага атрада імя М. А. Шчорса М. І. Дзьячкоў чытае жыхарам в. Сварынь Дзівінскага р-на зводку Саўінфармбюро.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ПА́РЫЦКІ ІМЯ́ С. М. КІ́РАВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Парыцкага, Васілевіцкага р-наў.

Створаны ў крас. 1943 з партызан, вылучаных 123-й Акцябрскай імя 25-годдзя БССР брыгадай. Камандзір М. М. Какоўка, камісар К. А. Дудко, нач. штаба П. У. Пішчык.

Партызаны ў жн. 1943 удзельнічалі ў аперацыі «рэйкавая вайна» на чыг. участку Васілевічы — Рэчыца, на шашэйных і грунтавых дарогах спалілі 13 мастоў, у Парычах знішчылі склад з ільновалакном. Разам з сав. воінамі вызвалялі в. Хутар Васілевіцкага р-на. 18.11.1943 атрад (339 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй. У 1967 у в. Хутар Светлагорскага р-на ў гонар атрада ўстаноўлена мемар. дошка.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «ПЕ́РШЫЯ»,** спецатрад НКДБ БССР. Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Гарадоцкага, Невельскага і сумежных з ім раёнаў. Арганізаваны ў сав. тыле як дыверсійна-разведвальны атрад «Смерць фашызму». Камандзіры Х. Д. Кусаў (загінуў), Я. І. Шпілявы. Атрад (125 байцоў) 26.9.1941 выйшаў у тыл праціўніка. 1.11.1941 атрад (118 чал.) выйшаў у сав. тыл і быў разбуйнены на самастойныя групы — «Першыя», «Другія», «Трэція» і «Чацвёртыя». Вясной 1942 атрад быў адноўлены (на базе групы «Першыя», 35 байцоў) і пад назвай «Першыя» 15.5.1942 перайшоў лінію фронту. Асноўныя дыверсіі праводзіў на чыг. лініі Віцебск — Орша — Смаленск. 6.9.1942 выйшаў у сав. тыл (колькасць не ўстаноўлена).

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ПЕ́ТРЫКАЎСКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Петрыкаўскага р-на.

Створаны ў ліп. 1941. Камандзір В. І. Гардзіенка, камісар С. І. Сакалоўскі, нач. штаба Яворскі.

Партызаны знішчылі асобныя групы ням. салдат, масты, тэлефонна-тэлеграфную сувязь, у вер. на Прыпяці — параход. У вер. 1941 у атрадзе 120 чал. У кастр. 1941 пасля баёў з карнікамі атрад падзяліўся на невял. групы і выйшаў за лінію фронту. Асн. частка атрада далучылася да Дабранскага партыз. атрада Чарнігаўскай вобл.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д А. С. ПЯТРО́ВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Суражскага і Лёзненскага р-наў.

Пачаў фарміравацца ў жн. 1943 на базе арганізатарскай групы (20 чал.) А. С. Пятрова. Камандзір Пятроў, камісар М. П. Сенакосаў (загінуў), нач. штаба Г. І. Шадрын.

У жн. 1943 партызаны вялі баі з карнікамі каля воз. Сялява, в. Кашалёва, Раманькова і Буева Суражскага р-на. 7.10.1943 атрад (102 партызаны) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д А. Ф. САРАФА́НАВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Капаткевіцкага, Акцябрскага, Даманавіцкага і Васілевіцкага р-наў.

Створаны ў маі 1942 на базе групы Сарафанава, арганізаванай у ліст. 1941 у Бабруйску з ваеннаслужачых, якія трапілі ў акружэнне, і падпольшчыкаў. Дзейнічаў у складзе 123-й Акцябрскай імя 25-годдзя БССР і 210-й Капаткевіцкай брыгад. Камандзіры А. Ф. Сарафанаў, Дз. Я. Карнілаў (в. а.), В. М. Васільеў; камісары А. І. Рудэнка, К. У. Шарыкалаў; нач. штаба М. В. Бушуеў, Шарыкалаў, Карнілаў.

Партызаны ў ліст. 1942 разам з інш. атрадамі ўдзельнічалі ў падрыве чыг. моста цераз р. Пціч (рух на магістралі Гомель — Брэст спынены на 18 сутак), у 2-й пал. 1942 — у разгроме варожых гарнізонаў у в. Шкава, Бярозаўка, Катка, Халопенічы. У ліп. 1943 вялі засадны бой супраць паліцыі Даманавіцкага гарнізона. 3.7.1944 атрад (68 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д А. СВЕНТАРЖЭ́ЦКАГА.** Дзейнічаў у складзе *Асобага злучэння партызанскіх атрадаў* у Валожынскім, Івянецкім, Заслаўскім і Радашковіцкім р-нах.

Створаны ў канцы ліп. 1942 з жыхароў Івянецкага, Валожынскага р-наў і партыз. групы Я. Дз. Васюціна. Камандзір атрада ў ліп.— вер. 1942 А. Свентаржэцкі.

У канцы вер. 1942 атрад (55 чал.) расфарміраваны. Групы Васюціна і Свентаржэцкага да канца 1942 баявыя аперацыі праводзілі самастойна, потым уліліся ў *партызанскую брыгаду імя В. П. Чкалава.*

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д СВЯЦІ́ЛАВІЦКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Свяцілавіцкага, Чачэрскага р-наў БССР і Клятнянскага р-на Арлоўскай вобл.

Створаны ў лютым 1942 на базе групы партызан на чале з Дз. М. Загорскім і В. А. Абушэнкам і групы І. Н. Філіпава. Камандзір Філіпаў, камісар Абушэнка.

З 6.7.1942 уваходзіў у аб'яднаную групу атрадаў паўн. раёнаў Гомельскай вобл. У перыяд карнай экспедыцыі праціўніка ў ліп. 1942 атрад (80 чал.) прыбыў у Чачэрскі р-н, потым перайшоў у Клятнянскі р-н. У вер. 1942 падпарадкаваны партыз. злучэнню А. Ф. Фёдарава Чарнігаўскай вобл.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д Дз. І. СЕМЯНЦО́ВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Карэліцкага, Мірскага і Навамышскага р-наў.

Створаны ў маі 1942 з ваеннаслужачых і жыхароў в. Тарасевічы, Новае Сяло, Велетова і інш. Мірскага р-на. Пасля гібелі камандзіра атрада Дз. І. Семянцова ў снеж. 1942 атрад перастаў існаваць, а яго асабовы склад уліўся ў атрады «Іскра» (гл. *Партызанская брыгада імя С. М. Кірава* Баранавіцкай вобл.), «Камсамолец» (гл. *Партызанская брыгада «Камсамолец»*), а таксама ў атрад Дз. А. Дзенісенкі (гл. *Партызанская брыгада 1-я Беларуская кавалерыйская).*

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д СКАРАДНЯ́НСКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Ельскага р-на. Створаны ў жн. 1941. Камандзір П. М. Рагозенка (загінуў), камісар В. М. Цык. Партызаны знішчалі масты, тэлефонна-тэлеграфную сувязь, вялі паліт. работу сярод насельніцтва. У ліст. 1941 у баях з карнікамі атрад пацярпеў цяжкія страты, група партызан на чале з камандзірам Рагозенка расстраляна акупантамі, працягвала дзейнічаць Скарадняская падп. група на чале з камісарам атрада Цыкам. У лютым 1942 аб'ядналася з Качышчанскай групай у Ельскі атрад, на базе якога ў ліп. 1943 створана *партызанская брыгада 37-я Ельская.*

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «СЛА́ЎНЫ»,** спецатрад НКДБ БССР. Дзейнічаў на акупіраванай тэр. ў Смаленскай, Арлоўскай, Гомельскай, Магілёўскай, Мінскай і Баранавіцкай абл., з 12.2.1942 у складзе 50 чал. Камандзіры А. П. *Шастакоў* (загінуў), К. А. Мадэй. Партызаны пусцілі пад адхон 22 эшалоны ворага, знішчылі больш за 100 вагонаў, узарвалі 20 складоў, 11 мастоў, разбурылі больш за 1 км чыг. палатна і 1,6 км тэлефонна-тэлеграфнай сувязі, удзельнічалі ў разгроме варожых гарнізонаў. Перадавалі ў Цэнтр звесткі разведкі. 7.7.1944 атрад (315 чал.) злучыўся з Чырв. Арміяй у Юрацішкаўскім р-не. У 1965 у Лідзе ў гонар атрада пастаўлена стэла, у 1969 у в. Бакшты Іўеўскага р-на — абеліск.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д СЛУ́ЦКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Слуцкага і Капыльскага р-наў. Створаны ў ліп. 1941. Камандзір Ф. А. Пашун. У снеж. 1941 група атрада (50 чал.) выйшла за лінію фронту.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРАД «СО́КАЛЫ»,** спецатрад НКДБ СССР. Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Клецкага, Ляхавіцкага, Навамышскага, Кобрынскага, Быценскага, Бярозаўскага, Ганцавіцкага, Драгічынскага р-наў. Камандзіры К. П. *Арлоўскі*, С. А. Нікольскі. Атрад перапраўлены ў тыл ворага 26.10.1942 (10 чал.) і 20.3.1943 (8 чал.). Папоўніўся мясцовым насельніцтвам і афарміўся ў атрад пад камандаваннем Арлоўскага (75 чал.). Партызаны пусцілі пад адхон 16 эшалонаў ворага, разбілі больш за 100 чыг. вагонаў і платформ, узарвалі 41 аўтамашыну, 4 прамысловыя прадпрыемствы, 2 масты, пашкодзілі больш за 10 км чыгункі, 18 км тэлефонна-тэлеграфнай сувязі, разграмілі 2 гарнізоны. 17.2.1943 байцы атрада на чале з Арлоўскім знішчылі штатскамісара Баранавіч групенфюрэра СА, гебітскамісара Баранавіцкай акругі, обергрупенфюрэра войск СС, 7 афіцэраў, 2 камендантаў паліцыі і некалькі салдат праціўніка, захапілі дакументы. Перадавалі ў Цэнтр звесткі разведкі.

5.7.1944 атрад (каля 150 чал.) злучыўся з Чырв. Арміяй. Камандзіру атра-

да Арлоўскаму прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1972 каля в. Машукі Клецкага р-на ва ўрочышчы Раскоп у гонар атрада пастаўлены помнік.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «СТАРШЫ́НЫ».** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Сямяціцкага р-на. Створаны з ваеннаслужачых, якія ўцяклі з варожага палону. У ліп. 1942 налічваў 36 партызан.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д І. А. СТАФАНЕ́НКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Краснапольскага, Чэрыкаўскага, Прапойскага і Кармянскага р-наў.

Створаны ў маі 1942. Камандзір І. А. Стафаненка, камісар Г. П. Баспін. Меў сувязь з дыверсійна-разведвальнымі групамі і атрадамі П. П. *Качуеўскага*, С. Х. Новікава, В. Н. Чарнышэвіча, «Уперад». Потым увайшоў у групу атрадаў паўн. раёнаў Гомельскай вобл.

Партызаны атрада і груп Качуеўскага і Новікава ў ліп. 1942 узарвалі мост цераз р. Сянна на дарозе Краснаполле — Чэрыкаў. У канцы ліп. 1942 атрад (68 партызан) адцяснёны ворагам у Клятнянскія лясы, у жн. уліўся ў атрад «Слаўны».

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д СТО́ЛІНСКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Столінскага, Давыд-Гарадоцкага і Тураўскага р-наў.

Створаны ў ліп. 1941 паводле рашэння Пінскага абкома КП(б)Б з парт.-сав. актыву і камсамольцаў. Камандзіры В. Е. Ключанкоў (загінуў), І. Л. Масленікаў (загінуў). 30.9.1941 партызаны вялі бой з праціўнікам у Ельскім р-не, пацярпелі значныя страты, загінуў сакратар Пінскага падп. абкома КП(б)Б П. Г. Шапавалаў.

Партызаны рабілі засады на дарогах, знішчалі масты, склады, тэлефонна-тэлеграфную сувязь. У кастр. 1941 асобныя групы партызан атрада накіраваліся за лінію фронту, каб злучыцца з Чырв. Арміяй. Далейшы лёс атрада не высветлены.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д С. Р. СУ́СЛАВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Бягомльскага і Свірскага р-наў.

Створаны ў снеж. 1942 у брыгадзе «Жалязняк» Мінскай вобл. У вер. 1943 перадыслацыраваны ў Свірскі р-н. Камандзіры П. Р. Півавараў, У. П. Каўцюх, С. Р. Суслаў; камісары І. П. Кліманскі, Ф. І. Ларыёнаў, Д. І. Мартыненка; нач. штаба А. В. Склярэнка, Карнееў, Ф. Ц. Хахлоў.

Партызаны разграмілі 3 варожыя гарнізоны ў Свірскім р-не, падарвалі 3 эшалоны, 7 мастоў на чыг. і шашэйных дарогах, каля 1 тыс. рэек на чыг. участках Смаргонь — Солы, Вільнюс — Лынтупы. 4.7.1944 атрад (228 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй. У 1975 у в. Баравыя Вілейскага р-на ў гонар атрада ўстаноўлена мемар. дошка.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «СЦЯГ».** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Бярозаўскага і Гайнаўскага р-наў.

Створаны ў маі 1944 на базе арганізатарскай групы А. Ф. Петракова, накіраванай БШПР у тыл праціўніка. Камандзіры Петракоў, В. Л. Ларыёнаў (в. а.); камісар А. У. Шаўлякоў; нач. штаба А. В. Навіцкі.

Партызаны вялі баі з ворагам, ратавалі мірнае насельніцтва ад загубы і вывазу на катаржныя работы ў Германію, вялі паліт. работу. 10.7.1944 атрад (48 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «СЯМЁНАВА»,** спецатрад НКДБ БССР. Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Быхаўскага, Бабруйскага, Асіповіцкага, Кіраўскага, Глускага і Парыцкага р-наў.

21.7.1943 у тыл праціўніка дэсантавана група (5 чал.) на чале з Х. С. Прыбылем («Сямёнаў»). Тут яна папоўнілася мясцовымі жыхарамі, партызанамі і афармілася ў атрад. Камандзір Прыбыль. Атрад базіраваўся ў Бабруйскім р-не. Асноўныя ўдары атрад наносіў па транспартных камунікацыях і інш. ваен. аб'ектах праціўніка. 30.6.1944 атрад (130 байцоў) злучыўся з часцямі Чырв. Арміі.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д І. П. ТО́ПКІНА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Быценскага, Ганцавіцкага, Косаўскага, Бярозаўскага, Слонімскага і інш. р-наў. Створаны ў вер. 1942. Камандзіры І. П. Топкін, В. В. Алісейчык; камісары Алісейчык, В. А. Цвяткоў. Баявыя дзеянні праводзіў на чыг. участках Брэст — Баранавічы і Брэст — Пінск, у кастр. 1942 — чэрв. 1943 кіраваў дыверсійна-разведвальнай дзейнасцю атрадаў «Савецкая Беларусь», імя Молатава, 113-га (камандзір М. Р. Арцёменка) і інш. У ліп. 1944 атрад злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «ТРЭ́ЦІЯ»** (у чэрв. 1943 — ліп. 1944 партызанскі атрад імя Ф. Э. Дзяржынскага), спецатрад НКДБ БССР. Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Глыбоцкага, Докшыцкага, Куранецкага, Мядзельскага, Аршанскага, Віцебскага, Дубровенскага, Расонскага, Сенненскага, Сіроцінскага, Талачынскага і інш. р-наў БССР і ў Літоўскай ССР. Атрад (50 чал.) перапраўлены ў тыл ворага 24.4.1942. Камандзіры А. А. Плотнікаў, М. Г. Братушанка, А. С. *Бычак* (загінуў), П. С. Савуляк, нач. штаба Р. М. Фралоў. Байцы атрада пусцілі пад адхон больш за 100 варожых эшалонаў, разбурылі больш за 4 км чыгункі, узарвалі 23 масты, 49 аўтамашын і танкаў, 4 электрастанцыі, 4 воданапорныя вежы, 11 складоў, самалёт.

2.7.1944 атрад (299 чал.) злучыўся з Чырв. Арміяй. Камандзіру атрада Бычку прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ТУ́РАЎСКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Тураўскага р-на.

Створаны ў ліп. 1941 на базе Тураўскага знішчальнага батальёна. Камандзір М. І. Голікаў; камісары В. П. Савін, М. М. Бяляўскі.

Партызаны з часцямі Чырв. Арміі ў жн. 1941 удзельнічалі ў баях за г. п. Тураў, знішчалі тэлефонна-тэлеграфную сувязь, масты, нападалі на варожыя абозы з правіянтам і боепрыпасамі. У канцы жн. 1941 частка партызан улілася ў Чырв. Армію. У вер. 1941 атрад групамі выйшаў за лінію фронту.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ТУ́РАЎСКІ «ЗА РАДЗІ́МУ».** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Тураўскага р-на. Створаны ў маі 1943 на базе партыз. груп, сфарміраваных у сак. 1943 атрадам імя М. І. Кутузава *партызанскай брыгады Лельчыцкай* з жыхароў в. Тонеж і Букча. Камандзір В. І. Прасолаў, камісар П. І. Тарасюк. 31.1.1944 атрад (194 партызаны) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ХО́ЙНІЦКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Хойніцкага р-на. Створаны ў жн. 1941. Камандзір І. М. Тэйкін, камісар П. П. Домнікаў (загінуў). У вер. 1941 выйшаў за лінію фронту.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «ХРАБРАЦЫ́»,** спецатрад НКДБ БССР. Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Жлобінскага, Рагачоўскага, Акцябрскага, Жыткавіцкага, Калінкавіцкага, Мазырскага, Петрыкаўскага, Асіповіцкага, Бабруйскага, Быхаўскага, Косаўскага, Лунінецкага, Лагішынскага, Пінскага р-наў. 1.7.1942 група (14 чал.) перапраўлена ў варожы тыл. 17.3.1943 на базу групы закінуты 22 байцы, потым яшчэ 6. Група папоўнілася мясцовым насельніцтвам і ператворана ў атрад. Камандзір А. М. *Рабцэвіч*. Байцы правялі больш за 200 дыверсій на чыгунках, шашэйных дарогах у Асіповічах, Мазыры, Бабруйску, Калінкавічах, пусцілі пад адхон, узарвалі і спалілі 91 варожы эшалон, знішчылі і папсавалі 24 танкі (з іх 5 «тыграў»), 23 бронемашыны, браняпоезд, 102 аўтамашыны, 35 электраматораў, 2 катэры, 4 лакамабілі, 2 падымальныя краны, узарвалі і спалілі склад з авіябомбамі, 5 мастоў, 3 лесапільныя з-ды, пашкодзілі каля 300 м чыг. пуці, 2,5 км тэлефонна-тэлеграфнай сувязі, разграмілі 2 гарнізоны і інш. Здабывалі і перадавалі сав. камандаванню звесткі разведкі, у т. л. пра абарончыя збудаванні на р. Сож, Дняпро, Бярэзіна, Прыпяць.

12.7.1944 атрад (204 чал.) злучыўся з Чырв. Арміяй. Камандзіру атрада Рабцэвічу прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1964 у в. Рудня-Гарбавіцкая Калінкавіцкага р-на у гонар атрада ўстаноўлена мемар. дошка.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ЦЕЛЯХА́НСКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Целяханскага р-на. Створаны ў ліп. 1941 у Целяханскім р-не. Камандзір У. І. Квінто. Дзейнічаў да вер. 1941. У баях пацярпеў страты, быў рассеяны на групы, якія выходзілі за лінію фронту, каб злучыцца з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «ЧАПА́Й».** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Мсціслаўскага, Крычаўскага, Чавускага і Клімавіцкага р-наў.

Створаны ў маі 1942. Камандзір У. Р. Залатарэнка; камісары В. П. Кітаеў, К. А. Рэуцкі. Дзейнічаў самастойна і з атрадамі «Алеся», «Валянціна Маёрава», дыверсійна-разведвальнай групай «Качубея» Зах. фронту.

Партызаны ў маі 1942 разграмілі апорныя пункты ворага ў в. Даленшчына і Ратная, Вярхоўцы, правялі сустрэчны бой каля в. Чорная Сосна. 2.9.1942 з атрадамі «Валянціна Маёрава», «Алеся» і групай «Качубея» пачалі рэйд з в. Дубравіца Клімавіцкага р-на за лінію фронту. 29.9.1942 атрад (34 партызаны) выйшаў у сав. тыл.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д «ЧЭКІ́СТ».** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Кляшчэльскага, Сямяціцкага і Высокаўскага р-наў.

Створаны ў жн. 1943 на базе групы Р. С. Каравая, якая дзейнічала з ліп. 1941. Камандзір Каравай, камісар І. А. Палякоў (загінуў), нач. штаба В. Р. Елісейкін.

Партызаны вялі баі з ворагам, ратавалі мірнае насельніцтва ад загубы і вывазу на катаржныя работы ў Германію, праводзілі паліт. работу. 27.7.1944 атрад (28 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ЧЭ́РЫКАЎСКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Чэрыкаўскага, Краснапольскага, Касцюковіцкага, Клімавіцкага і Прапойскага р-наў. Створаны ў жн. 1941. Камандзір Г. А. Храмовіч, камісар С. Ф. Васькавец. Партызаны праводзілі аперацыі на камунікацыях ворага. У вер. 1941 на чыг. участку Верамейкі — Чавусы пусцілі пад адхон эшалон. На шашы Чэрыкаў — Крычаў падарвалі 2 масты цераз р. Лабчанка і Волчас, на дарозе Ушакі — Пільня знішчылі варожую аўтакалону. У кастр. 1941 разграмілі Краснапольскую ўправу, правалі акружэнне карнікаў і выйшлі ў Хоцімскі р-н Магілёўскай, потым у Клятнянскі р-н Арлоўскай абл.

У кастр. 1941 частка партызан атрада выйшла ў сав. тыл, астатняя частка вясной 1942 перайшла у Бабруйскі, потым Клімавіцкі р-ны, дзе ўлілася ў Кіраўскі атрад.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д ШТАБНЫ́.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Акцябрскага і Капаткевіцкага р-наў пры штабе партыз. злучэння Палескай вобл.

Створаны ў студз. 1943 на базе ініцыятыўнай групы, вылучанай 225-й брыгадай. Камандзір Р. І. Бар'яш; камісары М. І. Лапо, Ф. І. Самбук, І. С. Сабецкі; нач. штаба А. І. Неўскі, А. І. Фасоль, А. Р. Волкаў, А. Т. Шумідуб.

Да чэрв. 1943 у складзе 125-й Капаткевіцкай брыгады. Партызаны наносілі ўдары па камунікацыях ворага, вялі адкрытыя і засадныя баі, ратавалі мірнае насельніцтва ад загубы і вывазу на катаржныя работы ў Германію. У сак. 1943 удзельнічалі ў баях супраць карных экспедыцый, у жн. 1943 і чэрв. 1944 — у аперацыі «рэйкавая вайна». 27.6.1944 атрад (116 партызан) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д В. В. ШЧАРБІ́НЫ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Халопеніцкага, Барысаўскага, Лепельскага, Чашніцкага і Валожынскага р-наў.



Партызанская шавецкая майстэрня.

Арганізаваны ў жн. 1941 з ваеннаслужачых, якія не выйшлі з акружэння, і жыхароў Халопеніцкага р-на. У вер. папоўніўся падпольшчыкамі і ваеннапалоннымі, якія ўцяклі з палону, прыбылі з Барысава. У ліст. 1941 атрад падзяліўся на групы і перастаў існаваць. Група В. В. Шчарбіны (18 чал.) выйшла ў сав. тыл. 23.3.1942 група Шчарбіны (5 чал.) зноў дэсантавана ў Халопеніцкі р-н. З пачатку ўваходзіла ў атрад Р. М. *Лінькова,* потым пераведзена у Вілейскую вобл. У крас. яна колькасна вырасла і афармілася ў дыверсійна-разведвальны атрад, які ў канцы чэрв. 1942 перабазіраваўся ў Валожынскі р-н, дзе ў жн. ўвайшоў у склад *Асобага злучэння партызанскіх атрадаў* (АЗПА) у якасці гал. падраздзялення (з кастр. 1942 партыз. атрад «Дзімы»). Пасля скасавання АЗПА у ліп. 1943 дзейнічаў самастойна, потым выйшаў за межы Беларусі. Камандзірам атрада Шчарбіне і М. П. *Фёдараву* прысвоена званне Героя Сав. Саюза (пасмяротна).

**ПАРТЫЗА́НСКІ АТРА́Д І. А. Я́РАША.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Барысаўскага, Крупскага, Халопеніцкага р-наў.

Створаны ў ліп. 1941 у Барысаўскім р-не на базе дыверсійнай групы (18 чал.) на чале з сакратаром Барысаўскага РК КП(б)Б І. А. Ярашам, групы ваеннаслужачых (37 чал.) на чале з маёрам В. М. Бурцавым і ст. лейт. Мядзведзевым (5.9.1941 група перайшла ў 208-ы атрад імя Сталіна (гл. *Партызанскі полк 208-ы імя І. В. Сталіна*), разведгрупы штаба Зах. фронту, пазней далучылася яшчэ адна група (35 чал.). На 5.9.1941 атрад налічваў 95 партызан. Камандзір Яраш, камісар А. Р. Хадаркевіч.

Партызаны вялі баявыя дзеянні на шашэйных дарогах і чыгунках. Восенню 1941 вялі бесперапынныя баі, ухіляючыся ад ням.-фаш. карнікаў. У вер. каля пас. Бобр на шашы разбілі атрад карнікаў. У канцы ліст. 1941 каля в. Каменка Халопеніцкага р-на атрад пацярпеў вял. страты ў асабовым саставе і, калі скончыліся боепрыпасы, выйшаў з бою асобнымі групамі. Пасля гібелі Яраша (26.2.1942) асабовы састаў рассеяны, ратуючыся ад праследавання карнікаў, уваходзіў у інш. партыз. атрады і групы.

**ПАРТЫЗА́НСКІ ГАРНІЗО́Н,** 1) месца працяглага размяшчэння партызанскага фарміравання. Гарнізоны ствараліся з мэтаю бяспекі і найбольш спрыяльных умоў жыцця і баявой дзейнасці партызан у тыле ворага. Кіраваў ім камандзір партыз. фарміравання. Арганізацыя і рэгуляванне жыцця, быту і ўнутранага распарадку П. г., гарнізоннай і каравульнай службы ажыццяўляліся на аснове статутаў і традыцый Чырв. Арміі, дакументаў і ўказанняў парт. і партыз. органаў. Пры размяшчэнні ў П. г. некалькіх фарміраванняў рознага падпарадкавання начальнік гарнізона вызначаў для кожнай самастойнай у адм. адносінах адзінкі сектар баявой і каравульнай аховы. Для кантролю і ўпарадкавання гарнізоннай службы ў маштабах *партызанскіх зон,* дзе базіраваліся некалькі брыгад, асобных атрадаў і пражывалі тысячы сав. грамадзян, ЦК КП(б)Б, БШПР і падп. парт. органы вызначалі раёны дыслакацыі партыз. фарміраванняў з населенымі пунктамі. У гэтых раёнах партызаны забяспечвалі ахову насельніцтва ад грабяжу і разбою ням.-фаш. акупантаў, нарыхтоўку харчавання і абсталёўвалі партыз. лагеры. У населеных пунктах, якія знаходзіліся ў зоне дыслакацыі партыз. фарміравання, камандаванне назначала партыз. каменданта ў сельсавет і старасту вёскі. У іх задачу ўваходзіла арганізацыя з дапамогай мясцовых акты-

вістаў каравульнай службы, апавяшчэнне насельніцтва і партызан аб з'яўленні і перамяшчэнні праціўніка, патруліраванне шляхоў, укрыццё людзей у бяспечнае месца, забеспячэнне грамадскага парадку ў населеным пункце, а таксама ў назіранні за паводзінамі партызан, якія знаходзіліся на заданнях па-за распалажэннем сваіх падраздзяленняў.

У многіх раёнах Беларусі, напр., у Віцебскай вобл., камендантаў у сельсаветах, стараст у вёсках назначалі падп. райкомы партыі. На вызваленай тэр. Ветрынскага р-на, напр., у месцы базіравання брыгады імя К. Я. Варашылава, амаль ва ўсіх сельсаветах працавалі партыз. каменданты. У Астраўшчынскім сельсавеце камендантам быў дэп. Ветрынскага райсавета і даваен. старшыня Шпакаўшчынскага сельсавета М. А. Хвяшчонак, у Гомельскім сельсавеце гэтыя абавязкі выконваў даваен. старшыня і дэп. Ветрынскага райсавета М. А. Дзелісёнак; у Варонецкім сельсавеце камендантам быў б. землеўпарадчык С. І. Стральцоў, у Коханавіцкім і Сухарукаўскім сельсаветах Асвейскага р-на — настаўнік Л. М. Юхневіч. У зоне дыслакацыі брыгады «Штурмавая» партызаны размясцілі па вёсках выратаваных дзяцей з Астрашыцкага дзіцячага дома. Каб рожымі гарнізонамі, карнымі атрадамі, для абароны партыз. зон, каб сумесна «выжыць» у цяжкую пару карных экспедыцый праціўніка.

У 1942 у Акцябрскім р-не ў ходзе вызвалення партызанамі тэрыторыі ад акупантаў пачаў складвацца «гарнізон Ф. І. Паўлоўскага». У канцы студз. 1942 на нарадзе каманднага складу партыз. атрадаў, якія дзейнічалі ў Акцябрскім, Капаткевіцкім, Глускім, Петрыкаўскім, Жыткавіцкім р-нах, быў створаны штаб гарнізона, куды ўвайшлі Паўлоўскі, С. В. Маханько і Р. І. Бар'яш. Агульнае кіраўніцтва гарнізонам ажыццяўляў ваен. савет камандзіраў у складзе членаў штаба гарнізона і камандзіраў атрадаў В. І. Лівенцава, І. Р. Жулегі, М. Б. Храпко. Узначальваў яго Паўлоўскі. Пры ваен. савеце створаны аддзелы паліт. і асобы. Штаб і ваен. савет планавалі і праводзілі баявыя аперацыі, ажыццяўлялі іх кіраўніцтва, каардынавалі дзеянні атрадаў, накіроўвалі грамадска-паліт., гаспадарчае і культурнае жыццё *Акцябрска-Любанскай партызанскай зоны*. Гарнізон аб'ядноўваў (на люты 1942) 13 асобных партыз. атрадаў: «Чырвоны Кастрычнік» (камандзір Паўлоўскі; галаўны атрад гарнізона), Лівенцава (пазней 752-і атрад партыз. брыгады 1-й Бабруйскай), А. Ф. Каваленкі (пазней атрад імя Каваленкі партыз. брыгады 123-й Акцябрталіся ў «гарнізоне Ф. І. Паўлоўскага», ў маі 1942 створана брыгада (гл. *Партызанская брыгада 123-я Акцябрская імя 25-годдзя БССР*).

Акрамя добраахвотных аб'яднанняў атрадаў, П. г. ствараліся і старшым вайсковым начальнікам. Такіх на Беларусі было 2. Абодва створаны паводле загадаў камандзіра *Клічаўскага аператыўнага цэнтра* палк. У. І. Нічыпаровіча ў канцы ліп. 1942.

Адзін аб'ядноўваў атрады «Разгром», «Перамога», «Камсамол», «Іскра», «Сцяг», «Чырвоны Сцяг», якія дзейнічалі на стыку Чэрвеньскага, Барысаўскага і Смалявіцкага р-наў. Гарнізон узначальвала камандаванне галаўнога атрада «Разгром». У кастр. 1942 на базе часткі атрадаў гэтага гарнізона («Разгром», «Іскра», «Сцяг») і атрада «Камуніст» сфарміравана партыз. брыгада «Разгром», атрад «Чырвоны Сцяг» увайшоў у склад *партызанскай брыгады «За Радзіму» імя А. К. Флегантава*, атрад «Перамога» — у *партызанскую брыгаду 2-ю Мінскую* як атрад імя Варашылава. У другі П. г. уваходзілі атрады 113-ы, 121-ы, 600-ы Магілёўскага і Бялыніцкага р-наў (камандзір К. М. Белавусаў).


Партызаны вывучаюць зброю. Мінская вобл.


Лясны лагер жыхароў в. Гадзілавічы Рагачоўскага р-на.


Партызанскі лагер. Пінская вобл.

арганізаваць лепшы догляд за змучанымі і надзвычай змардаванымі дзецьмі, камендантамі вёсак працавалі педагогі. У буйных населеных пунктах, якія былі вызвалены партызанамі (Расоны, Ушачы, Бягомль і інш.), усімі адм., гаспадарчымі і грамадскімі пытаннямі займаліся партыз. камендатуры. У Расонах камендатура дзейнічала з вер. 1942, складалася з каменданта (Н. З. Мартынаў), 2 яго намочнікаў і пісара; ёй дадавалася ахоўнае падраздзяленне — каменданцкі ўзвод. Ва Ушачах камендатуру ўзначальваў партызан М. Зуеў, у яго падпарадкаванні было 66 байцоў. У Магілёўскай вобл. з 1943 у атрадах колькасцю каля 150 чал. назначаўся штатны камендант атрада, брыгады, палка.

2) Пэўным чынам арганізаваныя партыз. сілы ў мэтах больш эфектыўнага вядзення баявых дзеянняў, самая простая форма аб'яднання асобных партыз. атрадаў на ранніх стадыях развіцця партыз. руху на Беларусі. Складвалася ў ходзе сумесных баёў асобных атрадаў па ініцыятыве і са згоды партызан дзеля сканцэнтравання намаганняў у барацьбе з васкай імя 25-годдзя БССР), Храпко, У. М. Шваякова (пазней імя Кірава і імя Шчорса партыз. брыгады 37-й імя А. Я. Пархоменкі), І. С. Губіна, І. Р. Жулегі (пазней «За Радзіму» партыз. брыгады 123-й Акцябрскай імя 25-годдзя БССР), А. Г. Балахонава (пазней «За Савецкую Радзіму» партыз. брыгады 100-й Глускай), Капаткевіцкі, М. П. Бумажкова, У. Ц. Шантара (пазней імя А. В. Суворава і імя М. Ф. Гастэлы партыз. брыгады 225-й), Чацвяртнога, Вежнаўца; агульнай колькасцю 1301 партызан, на ўзбраенні якіх было 69 станковых і ручных кулямётаў, 880 вінтовак, 33 аўтаматы, пяць 45-міліметровых гармат, 8 мінамётаў, значная колькасць боепрыпасаў. Зімой — вясной 1942 у складзе «гарнізона» арганізаваны новыя атрады: Т. Ц. Жулегі (пазней імя 25-годдзя ВЛКСМ партыз. брыгады 123-й Акцябрскай імя 25-годдзя БССР), А. Е. Папругі (пазней «Смерць фашызму»), А. П. Пакуша (пазней імя Чапаева партыз. брыгады 225-й), А. Ф. Сарафанава (пра кожную брыгаду гл. адпаведныя артыкулы). Вясной 1942 у перыяд баёў з карнікамі (гл. *«Бамберг»*) частка атрадаў перадыслацыравалася ў інш. раёны, на базе атрадаў, якія засУ ліст. 1942 на базе гэтых атрадаў і 425-га атрада была створана *партызанская брыгада 6-я Магілёўская*. *А. Л. Манаенкаў.*

**ПАРТЫЗА́НСКІ ЛА́ГЕР,** часовая стаянка партыз. фарміравання або яго падраздзяленняў у адрозненні ад працяглай іх дыслакацыі як гарнізонаў у населеных пунктах (гл. *Партызанскі гарнізон*). Часовы характар П. л. абумоўлены ступенню пагрозы нападу з боку войск праціўніка. П. л. існавалі ў асн. за межамі партыз. зон, дзе даводзілася часта мяняць дыслакацыю. Амаль заўсёды П. л. ствараліся ў лясных масівах. Партызанскія фарміраванні, якія доўгі час дыслацыраваліся як гарнізоны ў населеных пунктах партыз. зон, таксама даволі часта стваралі для сябе запасныя лагеры ў суседніх лясных урочышчах, куды яны адыходзілі пад націскам пераўзыходзячых сіл праціўніка.

У лесе П. л. даволі часта ператвараўся з часовай стаянкі ў сталае размяшчэнне баявога фарміравання на ўмацаванай пазіцыі з узвядзеннем

некаторых абарончых збудаванняў. У такіх выпадках П. л. станавіўся апорным пунктам, здольным да доўгатэрміновай абароны ад наступаючых войск праціўніка ці да забеспячэння сваёй абаронай адыходу асн. партыз. сіл для заняцця новых баявых пазіцый, а таксама для пераходу на новае месца дыслакацыі. У лясных урочышчах на кароткі час лагерам размяшчаліся партыз. фарміраванні, якія былі ў рэйдзе ці вярнуліся з яго.

Асабовы склад партыз. ляснога лагера звычайна размяшчаўся ў зямлянках, а летам яшчэ і ў буданах. Тут разам з байцамі знаходзілася і камандаванне партыз. фарміравання і яго падраздзяленняў. Асаблівасцю П. л., як і ў гарнізонах населеных пунктаў з больш пастаяннай дыслакацыяй, было размяшчэнне тут усіх тылавых службаў і сродкаў баявога і матэрыяльнага забеспячэння. Акрамя асабовага складу, камандавання і штабоў у партыз. лагеры заўсёды знаходзіліся абоз, сродкі харчова-фуражнага забеспячэння, харчовы блок, майстэрні па рамонце абмундзіравання і ўзбраення, мед.-сан. служба (палявая амбулаторыя, палявы шпіталь, лазня). Часам пры спешным адыходзе партызаны пакідалі на тэр. лагера добра замаскіраваную зямлянку з цяжка хворымі і параненымі. У гэтых выпадках лагер набываў вузка-спецыялізаванае значэнне са строга абмежаванымі функцыямі. Такія строга абмежаваныя функцыі выконваў П. л., дзе размяшчалася падраздзяленне па ахове і абслугоўванню партыз. аэрадрома. Ва ўмовах Беларусі ў вял. лясным лагеры часта разам з партыз. фарміраваннямі і пад іх аховай размяшчаліся сямейныя лагеры з жыхарамі населеных пунктаў, якія хаваліся ад праследавання фаш. карнікаў. На тэр. Беларусі П. л. з'яўляліся адной з абавязковых умоў функцыяніравання партыз. фарміраванняў і іх баявой дзейнасці. На месцах многіх П. л. створаны мемар. комплексы (гл. *Зыслаў, Хаваншчына*), пастаўлены помнікі, мемар. знакі. *А. І. Залескі.*

**ПАРТЫЗА́НСКІ ПАРА́Д 1944.** Адбыўся 16.7.1944 у Мінску. Пасля вызвалення Мінска (3.7.1944) на У ад яго ў *мінскі «кацёл»* трапіла 105-тысячная групоўка ням.-фаш. войск, якія пагражалі гораду, прарываліся да яго ўскраін. БШПР 5.7.1944 радыёграмай загадаў падцягнуць да Мінска 17 партыз. брыгад. Разам з Чырв. Арміяй партызаны ўдзельнічалі ў ліквідацыі «катла», трымалі абарону на Пн, ПнУ, У і ПдУ ад Мінска, ахоўвалі ўрадавыя будынкі, з-ды, аэрадром і інш. аб'екты, канваіравалі з горада больш за 17 тыс. ваеннапалонных; да 16.7.1944 правялі 15 буйных баявых аперацый, у якіх узялі ў палон больш за 2 тыс. і знішчылі 237 гітлераўцаў. У гонар вызвалення Мінска ад акупантаў 16 ліп. на тэр. былога іпадрома адбыўся мітынг працоўных і партызан з удзелам дэлегацыі воінаў Чырв. Арміі на чале з камандуючым 3-м Бел. фронтам ген. арміі І. Д. Чарняхоўскім, дэлегацыі працоўных г. Горкага, якая перадала вызваленаму гораду эшалон падарункаў. На мітынгу сакратар ЦК КП(б)Б і Старшыня СНК БССР П. К. Панамарэнка ад імя ўрада БССР і ЦК КП(б)Б павіншаваў працоўных і партызан з вызваленнем сталіцы БССР і перадаў воінам 1-га, 2, 3-га Бел. і 1-га Прыбалт. франтоў сардэчную падзяку бел. народа за выратаванне ад ням.-фаш. акупантаў. Пасля мітынгу адбыўся парад больш як 30 тыс. партызан Мінскага, Магілёўскага і інш. злучэнняў, якія прадэманстравалі сваю любоў да Сав. Радзімы. *Я. К. Габец.*

**ПАРТЫЗА́НСКІ ПОЛК,** адна з арганізацыйных форм аб'яднання партыз. сіл у тыле ворага. На тэр. Беларусі мела абмежаванае распаўсюджанне. Колькасць партызан, узбраенне і структура апарату кіравання П. п. амаль такія, як і ў *партызанскай брыгадзе.* Звычайна полк падзяляўся на батальёны, роты, узводы і аддзяленні. На акупіраванай тэр. Беларусі дзейнічала 14 палкоў, з іх 11 арганізацыйна ўваходзілі ў склад ваенна-аператыўных груп (ВАГ), 3 самастойна дзейныя — *партызанскі полк Смаленскі, партызанскі полк 208-ы імя І. В. Сталіна, партызанскі полк «Трынаццаць».* Усе яны (за выключэннем палкоў Смаленскага і «Трынаццаць») будаваліся па адзінай структуры, распрацаванай штабам ВАГ пры Магілёўскім падп. абкоме КП(б)Б.

З ліп. 1943 паводле пастановы Магілёўскага падп. абкома асобныя партыз. атрады вобласці, што мелі 800 і больш партызан і адпаведную колькасць асн. стралк. і цяжкай зброі, разгортваліся ў палкі, якія складаліся з 3 батальёнаў. У батальён уваходзілі штаб, 3 стралк. роты, па 2 узводы ў кожнай, з 3 аддзяленнямі ва ўзводзе, 1—2 дыверсійныя групы, падраздзяленні баявога і матэрыяльнага забеспячэння. Палкі мелі штаб, 1—2 дыверсійныя ўзводы, падраздзяленні баявога і матэрыяльнага забеспячэння, некаторыя — шпіталь, пасадачныя авіяпляцоўкі або пляцоўкі для прыёму авіягрузаў (гл. *Партызанскія аэрадромы*). Артылерыя і станковыя кулямёты ў залежнасці ад колькасці ствалоў у палках аб'ядноўваліся ў роту цяжкай зброі або ўключаліся ў склад стралк. рот чацвёртымі агнявымі ўзводамі. Пасля злучэння з Чырв. Арміяй БШПР вызначыў палкі як брыгады. Пра П. п., якія дзейнічалі на тэр. Беларусі, гл. асобныя артыкулы. *А. Л. Манаенкаў.*



Партызаны на парадзе ў Мінску. 16.7.1944.



Група каманднага саставу 208-га партызанскага палка імя І. В. Сталіна. Злева направа: П. С. Самсончык, Якушаў, Я. М. Бяспоясаў, Ц. К. Крук, М. П. Ратушнаў, П. В. Яхантаў, К. А. Арцюшын, Р. І. Шчарбакоў, В. М. Бурцаў, І. Б. Рутман. 1942.

**ПАРТЫЗА́НСКІ ПОЛК 15-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Прапойскага, Быхаўскага, Чавускага, Кармянскага, Клічаўскага і Бярэзінскага р-наў.

Створаны ў жн. 1943 на базе 15-га атрада. Камандзір А. С. Дзямідаў; камісар І. П. *Ніжнік*; нач. штаба І. І. Вішнеўскі (загінуў), П. А. Віліткевіч. У кастр. 1943 у час прарыву блакады полк пацярпеў вял. страты, выйшаў асобнымі групамі ў Клічаўскі р-н, дзе перафарміраваны і папоўнены партызанамі 208-га і 425-га палкоў.

Партызаны наносілі асн. ўдары па

камунікацыях у тыле 4-й і 9-й ням. арміі. У жн. 1943 падарвалі 8 варожых эшалонаў, 46 аўтамашын. Летам 1943 у раёне чыг. ст. Верамейкі перабілі больш за 920 рэек, у чэрв. 1944 каля чыг. ст. Лотва — больш за 170 рэек. У кастр. 1943 вялі цяжкія абарончыя баі ў Прапойскім і Быхаўскім р-нах. У складзе Клічаўскай ВАГ удзельнічалі ў разгроме апорнага пункта ў в. Пагост Бярэзінскага р-на. 28.6.1944 полк (311 чал., 2 батальёны) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ ПОЛК 113-ы.** Дзейнічаў на тэр. Бялыніцкага, Магілёўскага, Клічаўскага і Быхаўскага р-наў.

Створаны ў студз. 1944 на базе атрада 113-га (у ліп. 1941 у Смалявіцкім, потым у Бялыніцкім р-нах пачала фарміравацца група на чале з К. М. *Белавусавым*, да сак. 1942 афармлена ў атрад, які ў ліп. ўвайшоў у Клічаўскі аператыўны цэнтр як 113-ы атрад). Камандзіры палка Белавусаў, З. П. *Гапонаў*; камісар Дз. Я. Альховік; нач. штаба І. Ф. Хазаў.

Партызаны вялі баі па ачышчэнню і абароне партыз. зоны ад акупантаў. У студз. 1942 — ліп. 1943 самастойна і разам з інш. атрадамі разграмілі варожыя ўстановы ў в. Вял. Бялевічы, Прыхабы, Гарадзішча, Цяхцін, Аксенькавічы, Дасовічы, Падзевічы, Пушча. У кастр. 1942, лютым, маі, ліп., жн. 1943 каля ст. Тошчыца падарвалі больш за 730 рэек. У маі 1944 знішчылі 8 аўтамашын, падарвалі эшалон на ўчастку Магілёў — Шклоў. 20.6.1944 у аперацыі «рэйкавая вайна» скоўваў боем часці 60-й ням. рэзервовай мотамеханіз. дывізіі, якія размяшчаліся ў в. Гуслішча і Гусянка Магілёўскага р-на.

30.6.1944 полк (920 партызан, 3 батальёны) злучыўся з Чырв. Арміяй. У 1967 у в. Гарадзішча Магілёўскага р-на ў гонар палка пастаўлены абеліск.

**ПАРТЫЗА́НСКІ ПОЛК 121-ы І́МЯ А. М. КАСА́ЕВА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Бялыніцкага, Магілёўскага і Быхаўскага р-наў.

Створаны ў ліст. 1943 на базе 121-га атрада (у крас. — маі 1942 групай ваеннаслужачых створаны атрад, які летам 1942 уключаны ў Клічаўскі аператыўны цэнтр як атрад 121-ы). Камандзіры А. М. *Касаеў* (загінуў), А. А. Ільінскі; камісар І. М. *Іваноў*; нач. штаба М. В. Саўчанка, М. М. Гарусаў.

Партызаны наносілі ўдары па чыг. участку Шклоў — Магілёў — Быхаў. У 1942—43 самастойна і разам з інш. атрадамі разграмілі варожыя гарнізоны і апорныя пункты ў в. Угольшчына, Каменка, Цяхцін, Аксенькавічы, Падзевічы, Вял. Бялевічы. 3.8.1943 каля ст. Быхаў падарвалі 230 рэек. У жн. і вер. 1943 удзельнічалі ў аперацыі па адначасовым разгроме ням. гарнізонаў (гл. *Бялыніцкія аперацыі 1943*). Разам з 113-м атрадам разграмілі гарнізон на ст. Дашкаўка, падарвалі больш за 120 рэек. У чэрв., ліп. 1942, сак., маі 1943, лютым 1944 вялі баі супраць карнікаў. 9.1.1944 у в. Пясчанка правялі бой, каб выратаваць мірных жыхароў ад знішчэння і вывазу на катаржныя работы ў Германію. 20.6.1944 у аперацыі «рэйкавая вайна» разам з 61-м атрадам скоўвалі боем часці 60-й ням. рэзервовай мотамеханіз. дывізіі, расквартараваныя ў в. Галынка 1-я, Галынка 2-я і Ямніца Магілёўскага р-на (гл. *Ямніцкі бой 1944*).

30.6.1944 полк (1149 партызан, 3 батальёны) злучыўся з Чырв. Арміяй. Камандзіру палка Касаеву прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1971 каля в. Будзішча Магілёўскага р-на ў гонар палка пастаўлены абеліск.

**ПАРТЫЗА́НСКІ ПОЛК 122-і «ЗА РАДЗІМУ».** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Бялыніцкага і Шклоўскага р-наў.

Створаны ў кастр. 1943 на базе атрада 122-га «За Радзіму» (арганізаваны ў сав. тыле ў чэрв. 1942 з выпускнікоў *Асобага беларускага збору*, у вер. прыбыў у Бялыніцкі р-н). Камандзір А. І. Ліпскі; камісар М. Ф. Кручынін; нач. штаба П. А. Сікорскі, М. А. Салтказін.

Партызаны праводзілі аперацыі на чыгунках і шашэйных дарогах, наносілі ўдары па варожых гарнізонах, у т. л. ў в. Пашкава Магілёўскага р-на (гл. *Пашкоўскі бой 1943*), г. п. Бялынічы (гл. *Бялыніцкія аперацыі 1943*), в. Малы Кудзін (21.11.1943) Бялыніцкага р-на. 10.9.1943 знішчылі шашэйны мост цераз р. Друць. У маі 1943 і студз. 1944 вялі баі з карнікамі, 20.6.1944 — за авалоданне чыг. участкам Шклоў — Лотва, дзе знішчылі больш 840 рэек. 30.6.1944 полк (1133 партызаны, 3 батальёны) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ ПОЛК 152-і.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Быхаўскага, Магілёўскага, Кіраўскага, Клічаўскага і Рагачоўскага р-наў.

Створаны ў кастр. 1943 на базе 152-га атрада (з крас. 1942 у Чэрвеньскім р-не дзейнічала група ваеннаслужачых, якая ў чэрв. ўвайшла ў Клічаўскі аператыўны цэнтр як атрад 152-і). Камандзір М. Дз. Грыцан; камісары К. Н. Шыбанаў, І. С. Зычкоў; нач. штаба І. Б. Рутман, К. В. Еўтуховіч.

Партызаны наносілі ўдары па варожых камунікацыях. Толькі ў жн. 1943 на Пд ад чыг. ст. Тошчыца падарвалі больш за 540 рэек. У вер. 1943 удзельнічалі ў разгроме чыг. ст. Тошчыца (гл. *Тошчыцкі бой 1943*). У чэрв. 1942 і маі 1943 вялі баі з карнікамі ў Клічаўскім р-не. У жн. 1943 удзельнічалі ў разгроме варожых гарнізонаў у в. Балонаў-Сялец, Касічы, Кучын, у вер. 1943 у в. Пушча Быхаўскага р-на. У час наступлення Чырв. Арміі разам з інш. палкамі і атрадамі Быхаўскай ВАГ заблакіравалі шляхі адступлення ворагу ў Быхаўскім р-не. 24.2.1944 полк (898 партызан, 3 батальёны) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ ПОЛК 208-ы І́МЯ І. В. СТА́ЛІНА.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Клічаўскага, Бярэзінскага, Бялыніцкага, Кіраўскага, Быхаўскага, Пухавіцкага, Чэрвеньскага, Барысаўскага, Крупскага, Целяханскага, Лагішынскага, Ганцавіцкага і Пінскага р-наў.

Створаны ў жн. 1943 на базе атрада 208-га імя Сталіна. З жн. 1941 у Рудзенскім р-не дзейнічаў атрад М. П. *Пакроўскага*, у кастр. створаны атрад Сяргеева. 31.12.1941 атрады Пакроўскага, Сяргеева і група У. І. *Нічыпаровіча*, што прыбыла з Мінскага падполля, аб'яднаны ў партыз. атрад 208-ы (з сак. 1942 атрад 208-ы імя Сталіна). У сак. 1942 атрад перадыслацыраваўся ў Клічаўскі р-н, дзе яго камандаванне стварыла і ўзначаліла *Клічаўскі аператыўны цэнтр*. У ліст. 208-ы атрад пераўтвораны ў брыгаду 1-ю Клічаўскую (камандзіры П. В. *Яхантаў*, Я. М. *Бяспояса*ў; камісары І. Р. Іваноў, Р. І. *Шчарбакоў*; нач. штаба К. А. Арцюшын, Ц. К. *Крук*). У маі 1943 брыгада пераўтворана ў атрад 208-ы імя Сталіна, у жн. — у партыз. полк 208-ы імя Сталіна 3-батальённага складу. 11.12.1943—30.1.1944 полк перабазіраваўся ў Целяханскі р-н. Камандзір палка Бяспоясаў, камісар Шчарбакоў, нач. штаба П. Ф. Бадачэнка.

Партызаны правялі больш за 400 баявых аперацый. У лютым, сак. 1942, крас. і жн. 1943 разграмілі варожыя гарнізоны і апорныя пункты ў Пухавічах, Градзянцы Асіповіцкага, Сушы Клічаўскага, Мацевічах (гл. *Мацевіцкі бой 1943*) Бярэзінскага р-наў, у Бялынічах. Правялі 17 абарончых аперацый супраць карнікаў, у т. л. *Кліноцкі бой 1942*. У маі 1943 прарвалі блакаду, 16.6.1944 адбілі атакі буйных сіл карнікаў на лініі Агінскага канала. На чыг. участках Мінск — Орша, Орша — Жлобін, Мінск — Жлобін, Баранавічы — Лунінец, Лунінец — Пінск знішчылі і пашкодзілі больш за 70 эшалонаў. У жн. 1943 знішчылі больш за 3,5 тыс. рэек. 19.2.1944 на ўчастку Малькавічы — Люсіна спынілі і знішчылі вайсковы эшалон. 4—7.7.1944 ва ўзаемадзеянні з часцямі Чырв. Арміі разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Новы Двор, Пагост-Загарадск, Лагішын Лагішынскага, Сошна, Парахонск Пінскага р-наў. 11.7.1944 полк (1422 партызаны, 4 батальёны) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ ПОЛК 255-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Рагачоўскага, Жлобінскага, Быхаўскага, Кіраўскага, Клічаўскага, Крупскага р-наў.

Створаны ў ліст. 1943 на базе 255-га атрада (сфарміраваны ў крас. 1942 з групы А. А. Бірукова і М. К. Марусава, якая дзейнічала з ліст. 1941, у ліп. 1942 атрад 255-ы аб'яднаўся з Рагачоўскім атрадам, які дзейнічаў з жн. 1941). Камандзір палка В. А. *Мінайлаў*; камісары А. Н. *Захарава*, В. У. *Паўлаў*; нач. штаба І. А. Ярымаў.

Партызаны асн. ўдары наносілі на чыг. участках Быхаў — Жлобін, Жлобін — Бабруйск. У жн. 1943 падарвалі больш за 1 тыс. рэек. У ліп. 1942, студз., сак., маі, ліп., кастр., ліст. 1943, лютым і маі 1944 вялі баі з карнікамі. У ліп. 1942 — жн. 1943 самастойна і ў складзе 8-й Рагачоўскай

брыгады разграмілі каля 20 варожых апорных пунктаў, гарнізоны ў в. Гарадзец, Гадзілавічы, Фалевічы, Забалаццe, Побалава Рагачоўскага, Стары Крывец і Дзедлава Журавіцкага, Струкі Буда-Кашалёўскага р-наў. У кастр. 1942 у Буда-Кашалёўскім р-не захапілі склад з боепрыпасамі, зброяй.

28.6.1944 полк (849 партызан, 3 батальёны) злучыўся з Чырв. Арміяй. Партызану палка П. І. Кавалёву прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1966 каля пас. Дуброва Рагачоўскага р-на ў гонар стварэння Рагачоўскага партыз. атрада пастаўлена стэла.

**ПАРТЫЗА́НСКІ ПОЛК 277-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Бялыніцкага, Кіраўскага, Клічаўскага, Магілёўскага, Бярэзінскага, Шклоўскага, Быхаўскага і Крупскага р-наў.

Створаны ў вер. 1943 на базе атрада 277-га. 5.7.1941 у Клічаўскім р-не пачала дзейнічаць падп. група камуністаў, пакінутая па заданню ЦК КП(б)Б у тыле ворага. На яе базе ў ліп. 1941 створаны Клічаўскі партыз. атрад, які ў крас. 1942 увайшоў у Клічаўскі аператыўны цэнтр як атрад 277-ы. Камандзіры палка І. З. *Ізох*, М. П. Коканцаў; камісары І. М. Гершовіч, М. І. Кніга, А. М. Радзюк; нач. штаба С. Ц. Токараў.

Партызаны ў студз.— сак. 1942 удзельнічалі ў ачышчэнні тэр. Клічаўскага р-на ад акупантаў, 20.3. 1942 — у разгроме гарнізона ў Клічаве (гл. *Клічаўскія баі 1942*, 1943). Вялі баі па абароне і расшырэнню партыз. зоны, удзельнічалі ў разгроме апорных пунктаў у в. Развадава Клічаўскага (чэрв. 1942), Казулічы (гл. *Казуліцкія баі 1943*, 1944), Пацава Слабада (гл. *Пацаваслабадскія баі 1943*, 1944), Кіраўскага, Пагост (крас. 1944) Бярэзінскага р-наў. У чэрв., жн. 1942, маі, жн., ліст., снеж. 1943, лютым, маі 1944 вялі баі супраць карнікаў. Наносілі ўдары па камунікацыях ворага. У вер. 1942 каля чыг. ст. Крупкі захапілі і спалілі эшалон з гаручым, падарвалі чыг. мост цераз р. Нача (гл. *Нацкая аперацыя 1942*). У жн. 1943 на ўчастках Магілёў — Дашкаўка, Быхаў — Рагачоў, у чэрв. 1944 на ўчастку Магілёў — Орша падарвалі каля 2 тыс. рэек. У час наступлення Чырв. Арміі ўтрымлівалі партыз. зону. 28.6.1944 полк (1257 партызан, 3 батальёны) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ ПОЛК 425-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Быхаўскага, Кіраўскага, Магілёўскага і Рагачоўскага р-наў.

Створаны ў кастр. 1943 на базе 425-га атрада (у маі 1942 у Быхаўскім р-не пачаў арганізоўвацца атрад, які ў жн. ўвайшоў у Клічаўскі аператыўны цэнтр як атрад 425-ы). Камандзір палка Ф. Ф. *Сухаў*; камісар Ц. І. *Ляўшынскі*; нач. штаба В. П. Юхнаў, Ц. Я. Сакалоўскі.

Партызаны вялі баі па ачышчэнню раёна дыслакацыі ад акупантаў. Разграмілі гарнізоны ў в. Гарадзец (чэрв. 1942), Ямнае (студз. 1943), Угольшчына (сак. 1943), Кучын (ліст. 1943) Быхаўскага, Падзевічы (кастр. 1942) Бялыніцкага р-наў. У ліст. 1943 разагналі атрад карнікаў у в. Гарадзец і выратавалі мірных жыхароў ад загубы (гл. *Гарадзецкі бой 1943*). У лютым 1944 вялі баі з карнікамі ў Бялыніцкім р-не. Наносілі ўдары на чыг. участку Быхаў — Рагачоў, у вер. 1943 удзельнічалі ў разгроме гарнізона і чыг. ст. Тошчыца (гл. *Тошчыцкі бой 1943*). 22—25.2.1944 полк у складзе Быхаўскай ВАГ удзельнічаў у баях з ворагам у палосе Гамарня — Чыгірынка. Полк меў 3 батальёны.

24.2.1944 частка палка (425 партызан) злучылася з Чырв. Арміяй. 590 партызан асталіся ў варожым тыле, значная частка іх увайшла ў партыз. полк 15-ы.

**ПАРТЫЗА́НСКІ ПОЛК 537-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Кіраўскага, Клічаўскага, Быхаўскага, Бабруйскага, Асіповіцкага і Рагачоўскага р-наў.

Створаны ў кастр. 1943 на базе 537-га атрада (у крас. 1942 з падп. груп Кіраўскага р-на створаны Кіраўскі атрад, які ў чэрв. ўвайшоў у Клічаўскі аператыўны цэнтр як атрад 537-ы). Камандзір палка С. Дз. *Баркоўскі*; камісар Ф. Ф. *Дабравольскі*; нач. штаба А. А. Вязельшчакаў, М. Н. Дрозд (загінуў), М. А. Леў.

Партызаны самастойна і з інш. атрадамі разграмілі варожыя апорныя пункты, у т. л. ў в. Усохі (люты 1943) Клічаўскага, Жылічы, Любонічы і Падсёлы (сак. 1943), Стаўпішчы (крас. 1944) Кіраўскага р-наў. У чэрв. 1942 атрад у складзе Клічаўскага аператыўнага цэнтра 22 дні вёў баі за прарыў блакады і выхад з акружэння. Партызаны праводзілі аперацыі на варожых камунікацыях. У жн. 1943 і чэрв. 1944 падарвалі 1,1 тыс. рэек. У чэрв. 1944 разам з 538-м атрадам зрабілі налёт на варожыя апорныя пункты ў в. Выжары і Віленка, знішчылі штаб батальёна 134-й ням. пях. дывізіі, радыёвузел, 7 аўтамашын. 27.6.1944 полк (1302 партызаны, 3 батальёны) злучыўся з Чырв. Арміяй.



Група партызан 600-га палка.



Партызаны Смаленскага палка атакуюць ворага. Віцебская вобл.

**ПАРТЫЗА́НСКІ ПОЛК 600-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Бялыніцкага, Бярэзінскага, Шклоўскага і Магілёўскага р-наў.

Створаны ў студз. 1944 на базе 600-га атрада (у ліп. 1942 арганізаваны атрад, які ўвайшоў у Клічаўскі аператыўны цэнтр пад № 600). Камандзір Г. Ф. *Меднікаў*; камісар В. Ц. Някрасаў; нач. штаба В. Дз. Швагрынаў, А. А. Станкевіч.

Партызаны праводзілі аперацыі на чыгунках Барысаў — Орша, Магілёў — Жлобін, Магілёў — Асіповічы, на шашы Магілёў — Мінск. У жн. 1943 знішчылі ў раёне ст. Тошчыца і Вендрыж 2,5 км чыг. палатна. 20.6.1944 удзельнічалі ў разбурэнні чыгункі на Пн ад ст. Шклоў. Самастойна ці разам з інш. атрадамі

разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Аксенькавічы (вер. 1942), Падзевічы (кастр. 1942), Краснае (крас. 1943), Свяцілавічы (кастр. 1943) Бялыніцкага, Гарадзішча (вер. 1942), Пашкава (гл. *Пашкаўскі бой 1943*) Магілёўскага р-наў, нанеслі ўдар па гарнізону Бялынічы (гл. *Бялыніцкія аперацыі 1943*). У студз. 1944 вялі абарончыя баі. 30.6.1944 полк (1152 партызаны, 3 батальёны) злучыўся з Чырв. Арміяй. Партызану палка Л. Дз. *Лорчанку* прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

**ПАРТЫЗА́НСКІ ПОЛК 810-ы.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Быхаўскага, Кіраўскага, Магілёўскага і Рагачоўскага р-наў.

Створаны ў кастр. 1943 на базе 810-га атрада, арганізаванага ў крас. 1942. Камандзір М. Л. Максімаў-Лебедзеў, камісар Дз. А. *Смагін*, нач. штаба А. Р. Феакціставў.

Партызаны праводзілі аперацыі на чыг. участку Рагачоў — Быхаў. 3.8. 1943 падарвалі больш за 290 рэек. У вер. 1943 разграмілі чыг. ст. Тошчыца (гл. *Тошчыцкі бой 1943*), на чыгунцы Магілёў — Жлобін падарвалі 6 эшалонаў, разбурылі чыг. палатно. Удзельнічалі ў разгроме варожых апорных пунктаў і гарнізонаў, у т. л. ў в. Дручаны Бялыніцкага (гл. *Бялыніцкія аперацыі 1943*), Новы Быхаў, Тайманава і Камарычы (жн. 1943), Асоўшчына і Савічаў Рог (студз. 1944) Быхаўскага, Крушынаўка (люты 1944) Рагачоўскага р-наў, у Клічаве (гл. *Клічаўскія баі 1942, 1943*). 8.3.1943 у в. Гарадзец выратавалі мірных жыхароў ад загубы. У раёне тылавых баз палка стварылі 4 сямейныя лагеры, дзе пад аховай партызан знаходзілася каля 4 тыс. чал., якія ратаваліся ад карнікаў. 22—25.2.1944 полк у складзе Быхаўскай ВАГ удзельнічаў у баях з ворагам, які адступаў, у палосе Гамарня — Чыгірынка. 24.2.1944 полк (1006 партызан, 3 батальёны) злучыўся з Чырв. Арміяй.

**ПАРТЫЗА́НСКІ ПОЛК СМАЛЁНСКІ.** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Смаленскай (Касплянскі і Дзямідаўскі р-ны), Віцебскай (Сенненскі, Чашніцкі, Талачынскі і Ушацкі р-ны) і Вілейскай (Куранецкі р-н) абл.

Створаны ў ліп. 1942 на базе групы партызан, вылучанай з партыз. злучэння «Баці» і арганізатарскай групы I. Ф. *Садчыкава*. На Беларусі дзейнічаў з сак. 1943. Камандзір палка Садчыкаў; камісар А. Ф. *Юр'еў*; нач. штаба Г. П. Дамарацкі, П. Г. Мінясў.

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунках Смаленск — Орша, Віцебск — Смаленск, Віцебск — Орша, Лепель — Орша, Полацк — Маладзечна. Разграмілі гарнізоны ў в. Латыгаль (крас. 1943, гл. *Латыгальскі бой 1943*), Гарывец (жн. 1943) Сенненскага, Чарэя (кастр. 1943) Чашніцкага р-наў, разам з інш. брыгадамі авалодалі г. Чашнікі (гл. *Чашніцкі бой 1943*), удзельнічалі ў *Лепельскай аперацыі 1943*. У крас.— маі 1944 удзельнічалі ў баях супраць карнай экспедыцыі ням.-фаш. войск на тэр. Полацка-Лепельскай партыз. зоны на рубяжы в. Заскаркі, Касарэва, Белы Двор, Кунцэвічы, утрымлівалі абарону ў раёне азёр Канашы — Усомля, в. Труды — Хоцевічы Ветрынскага р-на. У маі прарвалі варожую абарону на рубяжы в. Матырына — Новае Сяло — Паперына, разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Новае Сяло і Паперына Ушацкага р-на (гл. *Полацка-Лепельская бітва 1944*). У ноч на 26.6.1944 на чыгунцы Полацк — Маладзечна ў раёне ст. Будслаў — Крывічы падарвалі і папсавалі больш за 1 тыс. рэек. Перад наступленнем Чырв. Арміі кантралявалі дарогі Куранец — Нарач, Вілейка — Нарач, перакрылі шлях праціўніку, які адступіў да в. Нарач. У ліп. 1944 разграмілі варожы абоз, на р. Нарач і Вілія аднавілі пераправы для сав. войск.

3.7.1944 полк [942 партызаны, 4 батальёны, атрады 1-ы, 2-і, 3-і, 4-ы, 5-ы, 6-ы, 7-ы імя Салаўёва (камісар атрада Дз. Дз. Салаўёў загінуў), 8-ы імя Самойленкі (камандзір атрада П. М. Самойленка загінуў), 9-ы, 10-ы, 12-ы, 13-ы, 14-ы] злучыўся з Чырв. Арміяй. Полк увекавечаны ў мемар. комплексе *«Прарыў»* у ліку 16 партыз. брыгад.

**ПАРТЫЗА́НСКІ ПОЛК «ТРЫНА́ЦЦАЦЬ».** Дзейнічаў на акупіраванай тэр. Смаленскай, Магілёўскай, Мінскай і Віцебскай абл.

Створаны ў чэрв. 1942 на базе партыз. атрада «Трынаццаць», арганізаванага ў ліст. 1941 у Дарагабужскім р-не Смаленскай вобл. У ліп. 1942 полк падпарадкаваўся ЗШПР на тэр. Смаленскай вобл. З крас. 1943 дзейнічаў у Мсціслаўскім, Крычаўскім, Чавускім, Быхаўскім, Прапойскім, Бялыніцкім, Бярэзінскім, Шклоўскім, Круглянскім, Крупскім і Талачынскім р-нах. У кастр. 1943 полк (2169 партызан, без атрада «Перамога») падпарадкаваны БШПР. Камандзіры палка С. У. *Грышын*, С. В. Пахомаў (в. а.); камісар I. А. Стралкоў; нач. штаба I. В. Узлоў (загінуў), С. П. Скварцоў.

Партызаны дзейнічалі ў аператыўным тыле 4-й і 9-й ням. армій, вялі абарончыя, сустрэчныя і наступальныя баі з ворагам, у т. л. ў раёне Дзямідава (вер. 1942), Касплі, Манастыршчыны (сак. 1943). У кастр. 1943 ва ўмовах блакады 19 дзён вялі цяжкія абарончыя баі ў Быхаўскім і Прапойскім р-нах. У крас.— вер. 1943 і крас.— маі 1944 разграмілі каля 20 варожых апорных пунктаў, у маі 1943 — чыг. ст. Чавусы. У жн.— вер. 1943 на чыг. участках Магілёў — Крычаў, Орша — Крычаў падарвалі больш за 2 тыс. рэек. 1.6.1944 полк разгорнуты ў асобае партызанскае злучэнне *«Трынаццаць»*; 1-ы батальён пераўтвораны ў *партызанскую брыгаду 1-ю*, 2-і — у *партызанскі атрад 11-ы*, 3-і — у *партызанскую брыгаду*


Партызаны Смаленскага партызанскага палка вядуць бой з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.


Конная разведка Смаленскага партызанскага палка.


Бой партызан Смаленскага палка (в. Кунцэвічы Полацкага р-на).

## СПІС ДА КАРТЫ
### «Дыслакацыя партызанскіх злучэнняў, брыгад і асобных атрадаў на акупіраванай тэрыторыі Беларусі (чэрвень 1941 г.— ліпень 1944 г.)»

**Партызанскія брыгады**

**Баранавіцкая вобл.** 1. 1-я Баранавіцкая, 2. 1-я Беларуская кавалерыйская, 3. 18-я імя Фрунзе, 4. 19-я імя Молатава, 5. 20-я імя Грызадубавай, 6. «25 год БССР», 7. «За Савецкую Беларусь», 8. імя Аляксандра Неўскага, 9. імя Варашылава, 10. імя Дзяржынскага, 11. імя Жукава, 12. імя Кірава, 13. імя Ленінскага камсамола, 14. імя Панамарэнкі, 15. імя Ракасоўскага, 16. імя Сталіна, 17. імя Суворава, 18. імя Чапаева, 19. імя Чкалава, 20. імя Шчорса, 21. «Камсамолец», 22. Ленінская, 23. «Няўлоўныя». 24. «Перамога», 25. Першамайская, 26. «Уперад».
**Беластоцкая вобл.** 27. імя Аляксандра Неўскага, 28. імя Кастуся Каліноўскага, 29. імя Панамарэнкі, 30. імя Чапаева, 31. «У імя Радзімы».
**Брэсцкая вобл.** 32. 8-я, 33. 99-я імя Гуляева, 34. 150-я імя Языковіча, 35. «За Радзіму» імя Флегантава. 36. імя. Дзяржынскага, 37. імя Леніна, 38. імя Панамарэнкі, 39. імя Свярдлова, 40. імя Сталіна, 41. імя Чапаева, 42. «Савецкая Беларусь».
**Вілейская вобл.** 43. 1-я імя Суворава, 44. 2-я імя Суворава, 45. 4-я Беларуская, 46. «За Радзіму», 47. 4-я «За Савецкую Беларусь», 48. імя Будзённага, 49. імя Варашылава, 50. імя Гастэлы, 51. імя Даватара, 52. імя Жукава, 53. імя Калініна, 54. імя Кутузава, 55. імя Леніна, 56. імя Ракасоўскага, 57. імя Фрунзе, 58. імя ЦК КП(б)Б, 59. «Кастрычнік», 60. «Спартак».
**Віцебская вобл.** 61. 1-я Беларуская, 62. 1-я Беларуская (другога саставу), 63. 1-я Віцебская, 64. 1-я Віцебская (другога саставу), 65. 1-я Дрысенская, 66. 1-я імя Заслонава, 67. 1-я Смаленская, 68. 2-я Беларуская імя Панамарэнкі, 69. 2-я Беларуская імя Панамарэнкі (другога саставу). 70. 2-я Дрысенская, 71. 2-я імя Заслонава, 72. 2-я Ушацкая імя Панамарэнкі, 73. 3-я Беларуская, 74. 16-я Смаленская, 75. Асвейская імя Фрунзе, 76. Багушэўская, 77. Багушэўская (другога саставу), 78. «Граза», 79. Гудкова, 80. «За Савецкую Беларусь», 81. імя Варашылава, 82. імя ВЛКСМ, 83. імя Даиукалава, 84. імя Кароткіна, 85. імя Кутузава, 86. імя Леніна, 87. імя Чапаева, 88. імя Чырванасцяжнага Ленінскага камсамола, 89. Крыўскага, 90. Лепельская імя Сталіна, 91. Лёзненская, 92. Расонская імя Сталіна, 93. Сенненская, 94. Чашніцкая «Дубава», 95. полк Смаленскі.
**Гомельская вобл.** 96. 1-я Буда-Кашалёўская, 97. 1-я Гомельская, 98. 8-я Рагачоўская, 99. 10-я Журавіцкая, 100. «Бальшавік», 101. Добрушская імя Сталіна, 102. «Жалязняк», 103. імя Панамарэнкі, 104. імя Чапаева, 105. імя Шчорса, 106. Лоеўская «За Радзіму», 107. «Мсцівец», 108. Рэчыцкая імя Варашылава, 109. «Уперад», 110. полк 225-ы.
**Магілёўская вобл.** 111. 1-я, 112. 1-я Асіповіцкая, 113. 1-я Бабруйская, 114. 1-я Клічаўская, 115. 2-я Клічаўская, 116. 3-я, 117. 3-я Бярэзінская, 118. 4-я Клічаўская, 119. 5-я, 120. 5-я Клічаўская, 121. 5-я Клятнянская, 122. 6-я Магілёўская, 123. 8-я Круглянская, 124. 9-я імя Кірава, 125. 9-я Кіраўская, 126. 11-я Быхаўская, 127. 13-я Касцюковіцкая. 128. 14-я Цемналеская, 129. 17-я, 130. 35-я, 131. 47-я «Перамога», 132. 61-я, 133. 115-я Горацкая, 134. 120-я, 135. 130-я «Помста», 136. 760-я імя Беразоўскага, 137. «Звязда», 138. «Чэкіст», 139. полк 15-ы, 140. полк 113-ы, 141. полк 121-ы імя Касаева, 142. полк 122-і «За Радзіму», 143. полк 152-і, 144. полк 277-ы, 145. полк 425-ы, 146. полк 537-ы, 147. полк 600-ы, 148. полк 810-ы, 149. полк «Трынаццаць».
**Мінская вобл.** 150. 1-я Антыфашысцкая, 151. 1-я Мінская, 152. 2-я Мінская, 153. 3-я Мінская імя Будзённага, 154. 12-я кавалерыйская імя Сталіна, 155. 25-я імя Панамарэнкі, 156. 27-я імя Чапаева, 157. 32-я імя Калініна, 158. 37-я імя Пархоменкі, 159. 64-я імя Чкалава, 160. 95-я імя Фрунзе, 161. 100-я імя Кірава, 162. 101-я імя Аляксандра Неўскага, 163. 121-я імя Брагіна, 164. 161-я імя Катоўскага, 165. 200-я імя Ракасоўскага, 166. 225-я імя Суворава, 167. 258-я імя Куйбышава, 168. 300-я імя Варашылава, 169. «Беларусь», 170. «Буравеснік», 171. «Дзядзькі Колі», 172. «Жалязняк», 173. «За Савецкую Беларусь», 174. імя Варашылава, 175. імя газеты «Праўда», 176. імя Калініна, 177. імя Калініна, 178. імя Кірава, 179. імя Кірава, 180. імя Панамарэнкі, 181. імя Шчорса, 182. Лагойская «Бальшавік», 183. «Народныя мсціўцы» імя Варанянскага, 184. Нікіціна, 185. «Полымя», 186. «Разгром», 187. «Смерць фашызму», 188. «Стары», 189. «Чырвоны сцяг», 190. «Штурмавая».
**Палеская вобл.** 191. 2-я Калінкавіцкая, 192. 27-я Нараўлянская, 193. 37-я Ельская, 194. 50-я Жыткавіцкая, 195. 99-я Калінкавіцкая, 196. 100-я Глуская, 197. 101-я Даманавіцкая, 198. 123-я імя 25-годдзя БССР, 199. 125-я Капаткевіцкая, 200. 130-я Петрыкаўская, 201. 210-я Капаткевіцкая, 202. 225-я, 203. Васілевіцкая імя Панамарэнкі, 204. Лельчыцкая. 205. Мазырская імя Аляксандра Неўскага.
**Пінская вобл.** 206. імя Будзённага, 207. імя Кірава, 208. імя Куйбышава, 209. імя Леніна, 210. імя Молатава, 211. Пінская, 212. «Савецкая Беларусь», 213. полк 208-ы імя Сталіна.

**Партызанскія атрады**

**Баранавіцкая вобл.** 214. 21-ы, 215. 125-ы імя Сталіна, 216. 200-ы, 217. 620-ы Дука, 218. 620-ы імя Чапаева, 219. Алыбіна, 220. «Гвардыя», 221. «Громава, 222. Дзенісенкі, 223. імя Жданава, 224. імя Калініна, 225. імя Кірава. 226. імя Кутузава. 227. імя Ленінскага камсамола, 228. Картухіна, 229. «Наватары», 230. Свентаржыцкага, 231. Семянцова, 232. «Слаўны», 233. Сухарукага, 234. Шчарбіны.
**Беластоцкая вобл.** 235. 550-ы, 236. «Баявы» імя Дунаева, 237. «Вест», 238. «За Радзіму», 239. імя Багдана Хмяльніцкага, 240. імя Будзённага, 241. імя Дзяржынскага, 242. імя Жукава, 243. імя Калініна.
**Брэсцкая вобл.** 244. 113-ы, 245. 345-ы, 246. 347-ы, 247. Глазінава, 248. «За Радзіму», 249. імя Будзённага, 250. імя Бярэнчыка, 251. імя Валькова, 252. імя Варашылава, 253. імя Варашылава, 254. імя Катоўскага. 255. імя Катоўскага (другога саставу), 256. імя Кірава. 257. імя Кутузава, 258. імя Сталіна, 259. імя Тэльмана, 260. імя Тэльмана, 261. імя Фрунзе, 262. імя Чапаева, 263. імя Чарпака, 264. імя Шчорса, 265. Казлова, 266. Кірылы Іванавіча, 267. Маларыцкі, 268. Манахава, 269. «Паддубнага», 270. «Старшыны», 271. «Сцяг», 272. Топкіна, 273. «Хадакі», 274. «Чэкіст».
**Вілейская вобл.** 275. Агітацыйны імя Горкага. 276. «Баец», 277. «Баявы», 278. імя Катоўскага, 279. імя Панамарэнкі, 280. імя Сталіна. 281. «Спартак», 282. Суслава, 283. «Трэція».
**Віцебская вобл.** 284. «Артур», 285. Багушэўскі, 286. Бяляева, 287. «Воранава», 288. «Граза», 289. Гудкова, 290. Гурко, 291. Дзюрбы, 292. Ц. Я. Ермаковіча, 293. Заслонава, 294. Захарава, 295. Іванова-Нароенкі, 296. імя Чкалава. 297. «Кастрычнік», 298. Марчанкі, 299. Мехаўскі, 300. «Меч», 301. «Няўлоўныя», 302. Патапенкі (6-ы), 303. «Першыя», 304. Пятрова. 305. Сазыкіна, 306. «Смерць фашызму».
**Гомельская вобл.** 307. 108-ы імя Катоўскага, 308. 252-і, 309. 257-ы, 310. 258-ы, 311. 259-ы, 312. «Алімп», 313. Гомельскі (сельскі), 314. Добрушскі, 315. «Другія», 316. «Жалязняк», 317. імя Катоўскага, 318. імя Кірава, 319. Каротчыкава, 320. Рагачоўскі, 321. Рэчыцкі, 322. Свяцілавіцкі, 323. Сцефаненкі.
**Магілёўская вобл.** 324. 1-ы, 325. 2-і, 326. 2-і Хоцімскі, 327. 3-і, 328. 5-ы, 329. 8-ы, 330. 10-ы, 331. 11-ы, 332. 12-ы, 333. 13-ы, 334. 14-ы, 335. 15-ы, 336. 19-ы, 337. 20-ы, 338. 24-ы, 339. 25-ы, 340. 25-ы, 341. 28-ы. 342. 30-ы, 343. 31-ы, 344. 41-ы, 345. 42-і, 346. 43-і, 347. 44-ы, 348. 45-ы «За Радзіму», 349. 48-ы Крычаўскі, 350. 48-ы Прапойскі, 351. 60-ы імя Сядлецкага, 352. 64-ы, 353. 85-ы, 354. 100-ы, 355. 110-ы, 356. 112-ы Горацкі, 357. 113-ы, 358. 115-ы, 359. 121-ы, 360. 122-і «За Радзіму», 361. 124-ы Касцюковіцкі, 362. 152-і, 363. 208-ы імя Сталіна, 364. 210-ы імя Сталіна, 365. 211-ы імя Ракасоўскага, 366. 212-ы імя Сумчанкі, 367. 213-ы «За Савецкую Беларусь», 368. 214-ы імя Калініна, 369. 215-ы імя Леніна, 370. 216-ы імя Панамарэнкі, 371. 225-ы, 372. 277-ы, 373. 278-ы, 374. 309-ы імя Кірава, 375. 340-ы, 376. 346-ы, 377. 425-ы, 378. 435-ы, 379. 537-ы, 380. 538-ы, 381. 540-ы, 382. 600-ы, 383. 720-ы, 384. 721-ы, 385. 810-ы, 386. 820-ы, 387. 830-ы, 388. «Алеся», 389. Ананава, 390. «Анатоля», 391. «Бальшавік», 392. «Бясстрашны», 393. «Валянціна Маёрава», 394. «Васільева», 395. Гарушкіна, 396. Гурскага, 397. Дудаля, 398. Журбы, 399. Казанакава, 400. Кохава, 401. «Макара», 402. Сямёнава, 403. «Чапай», 404. Чэрыкаўскі.
**Мінская вобл.** 405. Асташонка, 406. Бачкарова, 407. Васілеўскага, 408. Даманавіцкі, 409. М. Я. Ермаковіча, 410. Жукоўскага, 411. «Знішчальнік», 412. імя Калініна, 413. імя Калініна, 414. імя Сталіна, 415. імя Сталіна, 416. імя Суворава, 417. Канстанцінава, 418. Кузіна, 419. «Лейтэнанта», 420. «Меркуля», 421. «Мсцівец», 422. «Мясцовыя», 423. «Народныя мсціўцы», 424. Нікіціна, 425. Някрылава, 426. Папова, 427. «Рамана», 428. Самсонава, 429. Слуцкі, 430. «Смерць фашызму», 431. Сяргеева, 432. Яроша.
**Палеская вобл.** 433. Васілевіцкі, 434. Васілевіцкі, 435. Глускі, 436. Губіна, 437. Даманавіцкі, 438. Ельскі, 439. Жыткавіцкі. 440. імя Варашылава, 441. імя Варашылава, 442. імя Катоўскага, 443. імя Кірава, 444. імя Суворава, 445. імя Чапаева, 446. Калінкавіцкі, 447. Капаткевіцкі, 448. Качышчанскі, 449. Лельчыцкі, 450. Мазырскі, 451. Махновіцкі, 452. Нараўлянскі, 453. Петрыкаўскі, 454. Сарафанава, 455. Скараднянскі, 456. Тураўскі, 457. Тураўскі «За Радзіму», 458. Хойніцкі, 459. «Храбрацы», 460. «Чорнага», 461. Штабны.
**Пінская вобл.** 462. Васільева, 463. Ганцавіцкі, 464. Давыд-Гарадоцкі, 465. Іванаўскі, 466. імя Чуклая, 467. «Камарова», 468. Лунінецкі, 469. «Сокалы», 470. Столінскі. 471. Целяханскі.

---

*3-ю*, 5-ы — у *партызанскую брыгаду 5-ю*, 6-ы — у *партызанскі атрад 12-ы*, атрад «Перамога» — у *партызанскі атрад 13-ы*. Камандзіру палка Грышыну прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

**ПАРТЫЗА́НСКІЯ АЭРАДРО́МЫ.** Ствараліся для забеспячэння авіяперавозак і сувязі партыз. фарміраванняў з сав. тылам, *дапамогі савецкага тылу партызанам.* На тэр. Беларусі дзейнічаў 41 П. а. Цяжкія самалёты (Лі-2, Сі-47, Р-6 і інш.) маглі прымаць 21, лёгкія самалёты (Р-5, У-2 і інш.) — 20 аэрадромаў. Для дастаўкі грузаў партызанам выкарыстоўваліся таксама пляцоўкі. Існавала больш за 83 пляцоўкі для прыёму парашутыстаў і грузаў на парашутах. Аэрадромы і пляцоўкі будавалі партызаны і мясцовае насельніцтва. Першыя палёты сав. самалётаў у тыл ворага да партызан Магілёўскай вобл. пачаліся ў чэрв. 1942. Пасадка рабілася на Клічаўскім (пабудаваны за 10 дзён) і Галынскім аэрадромах (за 35 км на З ад ст. Друць). Першым на Клічаўскі аэрадром прыляцеў экіпаж самалёта Лі-2 В. П. Бібікава 4.6.1942 з грузам боепрыпасаў і медыкаментаў, дру-

гім — экіпаж самалёта Лі-2 С. А. Фралоўскага 18.6.1942. Адным з ініцыятараў стварэння П. а. быў камандзір 208-га партыз. атрада імя Сталіна У. І. *Нічыпаровіч*, які забяспечыў будаўніцтва неабходнымі матэрыяламі, інжынерамі, тэхнікамі і інш. кіраўнікамі. Аэрадромы і пляцоўкі абслугоўваліся партыз. радыёстанцыямі, якія перадавалі для самалётаў радыёсігналы, даныя аб метэаўмовах і інш. Прыём і адпраўку самалётаў рабілі спец. падрыхтаваныя каманды (да 65 чал.). Работу на пляцоўках вялі каманды партызан (15—20 чал.). У раёнах размяшчэння буйных П. а. для іх аховы і абароны прыцягваліся вял. партыз. сілы (да 5 партыз. брыгад колькасцю ад 1 да 3 тыс. чал.). Буйныя аэрадромы ў Бягомлі, в. Сляўшчына (за 35 км на Пн ад Полацка), Печышча (за 13 км на ПнЗ ад Івянца), на востраве Зыслаў (за 35 км на ПдЗ ад Глуска), у в. Парэчча (за 30 км на Пд ад Глуска), каля в. Сварынь (за 75 км на ПдЗ ад Пінска) былі абсталяваны у 1943 і адыгралі вял. ролю ў забеспячэнні надзейнай сувязі партызан з Вял. і інш. Аэрадромамі ў партыз. зонах Беларусі карысталіся ЦШПР і БШПР, Гал. разведвальнае ўпраўленне Чырв. Арміі, НКУС СССР, НКУС БССР, Украінскі, Латвійскі і Літоўскі штабы партызанскага руху. На П. а. іншы раз збіралася да 10 самалётаў. П. а. і пляцоўкі выкарыстоўваліся франтавой сав. авіяцыяй пры вымушаных пасадках і выкідах экіпажаў з падбітых самалётаў. Экіпажы збітых сав. самалётаў або тых, што прыляцелі на планёрах, вывозілі на Вял. зямлю. Толькі ў маі 1943 з Бягомльскага аэрадрома вывезена 25 авіятараў. Ведаючы важнае значэнне П. а. у арганізацыі дапамогі сав. тылу партызанам, акупанты вялі ўпартую барацьбу па іх знішчэнню. Так, у ліп. 1943 для разгрому П. а. ў Бягомлі была арганізавана спец. карная экспедыцыя з удзелам рэгулярных часцей. Праціўніку ўдалося пацясніць партызан і захапіць аэрадром. Праз 20 дзён партызаны выбілі ворага, і аэрадром зноў стаў абслугоўваць нар. мсціўцаў. За час акупацыі Беларусі сав. авіятары здзейснілі 5945 самалёта-вылетаў да партызан. Яны даставілі ў тыл праціўніка 2403,4 т разнастайных грузаў, перавезлі з Вял. зямлі 2626 чал. і вывезлі з партыз. зон каля 9 тыс. чал. П. а. адыгралі важную ролю ў забеспячэнні дапамогі сав. тылу партызанам, што садзейнічала актывізацыі іх баявых дзеянняў. На месцах П. а. пастаўлены помнікі (гл. *Зыслаў*). *М. А. Якубоўскі.*



На партызанскім аэрадроме. Партызаны Смаленскага палка і лётчыкі з Вялікай зямлі.



Партызаны дапамагаюць калгаснікам. Віцебская вобл.

зямлёй. Так, праз Бягомльскі аэрадром вялося забеспячэнне больш за 40 партыз. атрадаў і брыгад Мінскай, Віцебскай, Віленскай і Баранавіцкай абл. Аэрадром у в. Галынка забяспечваў да 30 партыз. атрадаў. З гэтых аэрадромаў эвакуіравалі цяжка параненых і хворых партызан, а таксама дзяцей і мясцовых жыхароў з партыз. зон. Аэрадромы служылі базамі забеспячэння партызан зброяй, боепрыпасамі і інш. неабходнай маёмасцю, у т. л. медыцынскай, газетамі, часопісамі, лістоўкамі, сюды прыбывалі групы арганізатараў партыз. руху, інструктары, радысты. У сав. тыл з П. а. адпраўляліся дакументы аб баявых дзеяннях партызан і падпольшчыкаў, атэстацыйны і наградны матэрыял, разведданыя аб перамяшчэннях варожых часцей, важныя аператыўныя дакументы, захопленыя ў праціўніка, грошы і каштоўнасці, унесеныя партызанамі і мясцовым насельніцтвам у *фонд абароны* краіны

**ПАРТЫЗА́НСКІЯ ЗО́НЫ,** тэрыторыі, якія кантралявалі партызаны.

На Беларусі першыя П. з. ўзніклі ўвосень 1941. Да пач. 1943, паводле звестак БШПР, бел. партызаны кантралявалі каля 50 тыс. км², надзейна ўтрымлівалі больш за 15 тыс. км², на канец 1943 кантралявалі 108 тыс. км², ці 58,4 % акупіраванай тэр. рэспублікі, у т. л. 37,8 тыс. км² было ачышчана ад праціўніка поўнасцю. Існавала больш за 20 вял. П. з.: Акцябрска-Любанская, Барысаўска-Бягомльская, Клічаўская, Полацка-Лепельская, Расонска-Асвейская, Івянецка-Налібоцкая, Сенненска-Аршанская, Суражская (гл. адпаведныя артыкулы) і інш. Сумеснымі намаганнямі беларускіх, рускіх, украінскіх, латышскіх, літоўскіх партызан створаны вял. П. з. ў раёнах Беларусі, сумежных з суседнімі братнімі рэспублікамі. У выніку аб'яднання некаторых з іх утварыліся партыз. краі: у 4-вугольніку Алеўск — Оўруч — Мазыр — Тураў такі край ахопліваў 14 раёнаў (больш за 200 тыс. чал.), на стыку БССР, РСФСР і Латвіі займаў пл. 10 тыс. км². Вялікі партыз. край існаваў у міжрэччы Дняпра, Прыпяці, Дзясны. Дзейнасцю насельніцтва і партызан на тэр. П. з. кіравалі падп. абкомы, міжрайкомы, райкомы партыі, якія тут і дыслацыраваліся. Яны апіраліся на ўзброеныя сілы партыз. злучэнняў і насельніцтва, аднаўлялі ў вызваленых раёнах Сав. уладу. У многіх раёнах дзейнічалі выканкомы Саветаў дэп. працоўных. Ролю органаў Сав. улады выконвалі найчасцей партыз. атрады,



Парашутныя грузы, атрыманыя партызанамі з Вялікай зямлі. Брэсцкая вобл.

31. Зак. 623.

спецыяльна створаныя нар. мсціўцамі камендатуры, якія падтрымлівалі парадак у вызваленых населеных пунктах, вырашалі гаспадарчыя пытанні, арганізоўвалі групы самаабароны. Пад аховай партызан у зонах жылі дзесяткі тысяч сав. людзей. Адбываліся масавыя ўцёкі ў П. з. насельніцтва з тэрыторыі, занятай ням.-фаш. акупантамі. Часта ў П. з. перасяляліся жыхары цэлымі вёскамі. Партызаны пастаянна вялі баі з буйнымі карнымі экспедыцыямі (гл., напр., *Полацка-Лепельская бітва 1944*) і з мабільнымі атрадамі ворага, каб не дапусціць іх на тэр. зон.

П. з. з'яўляліся сапраўднымі баявымі фарпостамі ўсенар. супраціўлення ворагу, базай і своеасаблівым тылам, дзе партызаны прымалі самалёты з Вял. зямлі, рыхтавалі рэзервы. Насельніцтва П. з. папаўняла рады нар. мсціўцаў, памагала ім у баявой дзейнасці, зборы і рамонце зброі, у арганізацыі быту, забяспечвала іх харчовымі прадуктамі, жыллём, збірала абутак, адзенне, даглядала параненых і хворых байцоў. Пад аховай і з дапамогай нар. мсціўцаў жыхары П. з. сеялі, убіралі, хавалі збожжа ад ворага. Асабліва напружаная бітва за хлеб разгарнулася летам 1943, у выніку якой насельніцтву з дапамогай партызан удалося ў асноўным захаваць ураджай.

Сярод насельніцтва праводзілася масава-паліт. работа, распаўсюджваліся газеты, лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро. Жыхары П. з. урачыста адзначалі сав. святы: у населеных пунктах вывешвалі чырв. сцягі, праводзілі мітынгі і сходы, наладжвалі канцэрты мастацкай самадзейнасці, прагляды кінафільмаў, прысланых з сав. тылу. У некаторых зонах працавалі сав. школы. Вял. ўвага аддавалася мед. абслугоўванню партызан і насельніцтва. Сам факт існавання ў глыбокім тыле ворага П. з. меў вял. паліт. значэнне, садзейнічаў росту ўсенар. супраціўлення гітлераўцам. У перыяд вызвалення Беларусі праціўнік не меў магчымасці арганізаваць трывалую абарону на тэр. П. з., што памагала наступленню сав. войск. *Э. Ф. Языковіч.*

**ПАРТЫЗА́НСКІЯ КРА́І,** гл. ў арт. *Партызанскія зоны.*

**ПАРТЫЗА́НСКІЯ ПЕ́СНІ,** песенны цыкл, які склаўся ў партыз. атрадах і фарміраваннях у гады Вял. Айч. вайны. У духоўным жыцці бел. народа ваен. перыяду былі самымі любімымі і папулярнымі з усіх відаў і жанраў народна-паэтычнай творчасці, задавальнялі ідэйна-эстэтычныя запатрабаванні сав. людзей, адлюстроўвалі іх пачуцці, натхнялі на барацьбу, вострым сатырычным словам змагаліся з ворагам. Сярод іх вылучаюць безыменныя нар. песні (напрыклад, «Ой, на лузе, пры дубочку»), творы самадзейных складальнікаў («Песня пра Лаўскі бой» П. Ліпілы), фалькларызаваныя ўзоры сав. масавай песні («На кані вараным» У. Захарава). Да асобнай катэгорыі належаць т. зв. песні-пераробкі, заснаваныя на абнаўленні зместу папулярных нар. і сав. масавых песень пры захаванні інтанацыйнай асновы напеваў, рытмікі і паэтычнай сістэмы першапачатковага тэксту (цыклы песень на мелодыі «Па далінах і па ўзгор'ях», «Кацюша» і інш.). У залежнасці ад абставін партыз. песні выконваліся хорам, сола, часта пад акампанемент гармоніка. Вядома больш за 60 партызан — аўтараў слоў (каля 200 песенных тэкстаў) і больш за 20 аўтараў мелодый. Паэтычныя тэксты складаліся на бел. і рус. мовах. Адзіная жанрава-відавая класіфікацыя партыз. песеннай творчасці пакуль застаецца ў стадыі распрацоўкі. В. Я. Гусеў у кнізе «Славянскія партызанскія песні» (1979) вылучыў у ёй партыз. эпіку (апавядальныя песні, якія ствараліся ў сувязі з канкрэтнай падзеяй у баявым жыцці атрада, брыгады, песні пра баявы шлях, песні-хронікі), партыз. лірыку (песні-«клічы», песні-«славы», гераічныя, элегічныя, сатырычныя песні, прыпеўкі), лірыка-эпічны пласт (новыя гераічныя балады і галашэнні). Вылучаюць таксама традыцыйныя нар. песні лірычнага ці ліра-эпічнага характару. Ідэйна-тэматычны змест песень, якія актыўна бытавалі ў гады вайны сярод партызан і насельніцтва акупіраваных ням.-фаш. захопнікамі раёнаў, быў абумоўлены рэальнымі падзеямі: яны адлюстроўвалі ўмовы жыцця і барацьбы партызан і ўсяго сав., у т. л. бел., народа.



**Партызанскі аэрадром. Малюнак самадзейнага мастака партызана Дельчыцкай брыгады Л. С. Рыбальчанкі. Лістапад 1943.**

Сярод песень эпічнага характару вылучаюцца партыз. маршы, у якіх знайшлі адлюстраванне гераічныя справы партыз. падраздзяленняў, настрой і імкненні байцоў, жаданне адпомсціць фаш. захопнікам за знішчэнне гарадоў і вёсак, за масавае забойства сав. людзей. Песні-маршы звычайна ствараліся на матывы рэвалюцыйных і папулярных сав. песень (напрыклад, «Па сібірскіх тайгах і далінах» і інш.). Многія песні выказвалі ўпэўненасць у непазбежнасці хуткага разгрому ворага і ачышчэння зямлі ад фаш. нечысці. Вял. значэнне ў ідэйна-патрыятычным выхаванні мелі песні-клятвы народу, партыі, Радзіме разграміць гітлераўцаў. Песні-клятвы спявалі ад першай асобы, якая паўстае высакародным героем — абаронцам Радзімы, да канца адданым народу, сав. краіне, гатовым у любы час ахвяраваць сваім жыццём дзеля вызвалення роднай зямлі. У іх шырока выкарыстоўваліся разнастайныя прыёмы нар. паэтыкі і стылістычныя фігуры: рытарычныя воклічы, паўторы, анафары, эпіфары, інверсіі, супастаўленні і інш. Эпічным складам характарызаваліся і песні палонянак, што выконваліся ў партыз. лагерах, дзе жылі і партыз. сем'і. Гэтыя песні ўзніклі як мастацка-паэтычны водгук, пратэст супраць гвалтоўнага вывазу ў Германію нашых юнакоў і дзяўчат і ператварэння іх у рабоў. Створаныя ў фаш. няволі песні ярка раскрывалі настроі і пачуцці сав. дзяўчат, адарваных ад радзімы. У іх чуецца горыч разлукі з роднымі, крык тугі і роспачы, што рвецца з душы дзяўчыны-нявольніцы, якая прагне вызвалення з фаш. катаргі і заклінае нашых воінаў адпомсціць ворагам за здзекі з яе. Некаторым песням характэрны рысы балад. Ліра-эпічны характар уласцівы і некаторым традыцыйным песням, якія, дзякуючы сваёй асацыятыўнай ёмістасці, дастасоўваліся да паказу падзей суровых ваен. гадоў, выказвалі настроі і перажыванні сав. людзей у сувязі з фаш. навалай, адлюстроўвалі смутак з прычыны гібелі партызана, салдата, камандзіра. Пры гэтым шырока выкарыстоўваліся традыцыйная сімволіка і інш. сродкі мастацкай выразнасці. Замест традыцыйнага вобраза казака або салдата, напрыклад, у песню «У нядзелю рана», распаўсюджаную ў гады Вял. Айч. вайны, быў уведзены вобраз чырвонага камандзіра, які гераічна загінуў у баі з фашыстамі. Тры птушкі, што прыляцелі да героя, сімвалізавалі маці, жонку і сястру. Як і ў традыцыйных песнях, паказваецца іх гора: маці плача, як рака цячэ, сястра — ручаёк бяжыць, а жонка — і расы няма. Традыцыйнае тут спалучаецца з новым: уводзіцца эпізод з прылётам трох сокалаў, якія ўзялі цела камандзіра пад «белыя плечкі», брызнулі жывой вадой з «быстрае ракі» і ажывілі яго. Вобразу чырвонага камандзіра тут надаюцца рысы героя чарадзейных багатырскіх казак. Нават зброя ў яго — востры меч, якім змагаюцца з ворагам казачныя асілкі. Чырвоны

камандзір паздымаў «чорным воранам галовы з плеч», «па свету шагае, ўсіх немцаў-хішчнікаў убівае». Нярэдка ў масавыя партыз. песні ператвараліся вершы паэтаў. Народнай песняй-«клічам» стаў шырока вядомы верш Я. Купалы «Беларускім партызанам». Пакладзены на музыку, ён выконваўся як марш і адыграў пэўную прапагандысцкую ролю сваім эмацыянальным заклікам да змагання з фашыстамі. У верш арганічна ўпляліся траппыя нар. выслоўі, фразеалагізмы, заклінанні, праклёны гітлераўскім катам. Шырока распаўсюдзіліся таксама і сталі народнымі перапрацоўкі вершаў і песень на сл. А. Астрэйкі, П. Глебкі, М. Ісакоўскага, К. Крапівы, А. Русака і інш. У лірычных любоўных песнях нярэдка паказваецца прывабны вобраз дзяўчыны, якая разам з мілым ідзе ў партызаны і гераічна ваюе з ворагам (напрыклад, перапрацоўка верша Я. Купалы «Над ракою ў спакою»). Асабліваe значэнне мелі сатырычныя песні, у якіх з'едліва высмейваліся фаш. верхаводы Гітлер, Гебельс, Рыбентроп і інш. Папулярнымі былі сатырычныя пароды, перапрацоўкі вядомых песень сав. кампазітараў, дзе ў камічным выглядзе паказваліся фаш. захопнікі, карнікі. Такія перапрацоўкі мелі сваю спецыфіку: у іх сатыра была скіравана не на высмейванне стылявых хібаў, невыразнасці сэнсу твораў, а на бязлітаснае, знішчальнае выкрыццё гітлераўскіх галаварэзаў. Сатыра нар. твораў развейвала страх перад фашыстамі, выкрывала іх міфы пра непераможнасць ням. арміі. Папулярнымі сярод партызан і насельніцтва акупіраваных раёнаў былі прыпеўкі (частушкі) ваен. тэматыкі. З прыпевак перыяду Вял. Айч. вайны вылучаюць партызанскія, франтавыя, паланянак. На Беларусі былі найбольш распаўсюджаны партыз. прыпеўкі, у якіх адлюстраваны гераічныя подзвігі нар. мсціўцаў, нянавісць сав. народа да фаш. акупантаў, адносіны народа да партызан. З любоўю і сімпатыяй пададзены ў іх вобразы байцоў і камандзіраў. Яркае мастацкае адлюстраванне знайшлі ў іх перамогі Чырв. Арміі пад Масквой, Сталінградам, Арлом, Ленінградам і інш. У лірычных прыпеўках гаворыцца аб шчырых глыбокіх пачуццях дзяўчыны да свайго мілага, часам канкрэтна ўказваецца атрад, у якім ён ваюе. У некаторых прыпеўках паказана сумесная барацьба дваіх закаханых з ворагам. Як і аналагічныя песні, сардэчным болем і глыбокім смуткам працяты прыпеўкі паланянак, дзе лірычныя гераіні пранікнёна, з рытарычнымі зваротамі просяць чырвонаармейцаў, лётчыкаў, бацькоў ўратаваць іх ад фаш. рабства. Паланянкі выклікаюць агонь на сябе, не шкадуюць жыцця ў імя вызвалення з няволі, клікаюць, напр., лётчыкаў: «Прыляціце, разбамбіце лагеры нямецкія». Мастацкая форма прыпевак характарызуецца сінтэзаваннем традыцыйных мастацкіх прыёмаў з новымі, у многіх з іх выкарыстаны традыцыйныя псіхалагічныя паралелізмы, дзе карціны прыроды супастаўляюцца з жыццёвымі сітуацыямі, і інш. Традыцыйныя прыёмы і сродкі мастацкай выразнасці шырока выкарыстоўваліся ў імправізацыйных нар. плачах, галашэннях. Самыя задушэўныя словы смутку і жальбы падбіраў народ для выказвання ў галашэннях пачуццяў з выпадку гібелі сав. людзей ад рук фашыстаў. Рытарычныя пытанні, звароты ў памяншальна-ласкальнай форме, яркія эпітэты, трапныя параўнанні і інш. мастацкія сродкі фальклору дапамагалі адлюстроўваць бязмернае гора з выпадку страты блізкага чалавека. З любоўю і пяшчотай звяртаецца, напр., маці да свайго загінуўшага «сыночка даражэнькага», як да жывога, называе яго «ягадкай любай», «зорачкай ясненькай», «рыбачкай даражэнькай», «галубочкам шызакрылым», папракае яго: «На каго ж ты мяне пакінуў? А да каго мне цяпер прыгарнуцца? Да каго мне словачка сказаць? А каму мне сваё горачка паведаць?». У стылі эпічных апавяданняў у галашэннях паказваецца жыццё героя, яго дзяцінства, юнацтва, чуецца бязмернае гора маці і адначасова яе гордасць за сына, які загінуў «як верны сын сваёй мацеры за сваю зямлю родную». Ва ўсіх галашэннях адлюстравана нянавісць да гітлераўскіх акупантаў, якіх народ называе нячыстай сілай, звяр'ём праклятым. У партыз. песнях, як і ва ўсёй нар. творчасці перыяду Вял. Айч. вайны, яскрава ўвасоблены высакародныя ідэі барацьбы з фаш. захопнікамі за вызваленне роднай зямлі, адлюстраваны падзеі суровых ваен. гадоў, рэалістычна паказаны бессмяротны подзвіг народа, яго высокі маральны дух, мужнасць і непакорнасць, бясстрашша і трываласць у смяротнай схватцы з ворагам. *А. С. Фядосік.*

**ПАРТЫЗА́НСКІЯ РЭЗЕ́РВЫ** (у л і ч а н ы я), масавыя, як правіла, няўзброеныя патрыятычныя аб'яднанні пры партызанскіх фарміраваннях на акупіраванай ням.-фаш. захопнікамі сав. тэрыторыі, з'явіліся дзейснай формай удзелу самых шырокіх мас насельніцтва ў барацьбе супраць гітлераўцаў. Ствараліся з мясцовых жыхароў, якія пражывалі ў *партызанскіх зонах* і па-за імі, дзейнічалі пад кіраўніцтвам парт. органаў і камандавання партыз. фарміраванняў. У П. р. залічваліся на добраахвотных пачатках усе жадаючыя незалежна ад сац. і нац. прыналежнасці, пола, узросту і прафесіі, якія не былі ў партыз. атрадах ці падп. арг-цыях і гатовыя па першым клічы стаць у рады нар. мсціўцаў і са зброяй у руках змагацца супраць гітлераўскіх захопнікаў. Асн. роля П. р.— забеспячэнне безупыннага папаўнення партыз. фарміраванняў людзьмі. Разам з гэтым яны выконвалі і інш. задачы: аказвалі партызанам садзеянне ў адшуканні зброі, боепрыпасаў, зборы разведданых, у правядзенні баявых аперацый, перш за ўсё на камунікацыях праціўніка; дапамагалі партызанам праводзіць гаспадарчыя мерапрыемствы, арганізоўваць нарыхтоўкі прадуктаў харчавання, здабывалі адзенне, абутак, медыкаменты, у наладжванні іх бытавога і мед. абслугоўвання. Шматлікія рэзервовыя падраздзяленні неслі патрульную службу ў населеных пунктах, ахоўвалі сямейныя грамадзянскія лясныя лагеры ў партыз. зонах, выконвалі інш. заданні партызан.

Напр., у вёсках *Барысаўска-Бягомльскай партызанскай зоны* дзейнічалі дружыны ці каманды парадку, у Давыд-Гарадоцкім р-не — групы і батальёны абароны, у Даманавіцкім р-не — атрады парадку. Партызаны Асіповіцкага злучэння стварылі ў 70 населеных пунктах групы абароны. Такія ж групы дзейнічалі ў Гомельскай вобл. У раёнах Вілейскай вобл. з ліку жыхароў, якія ўступілі ў П. р., фарміраваліся дружыны нар. апалчэння, якія ахоўвалі свае вёскі, нярэдка ўдзельнічалі разам з партызанамі ў баявых аперацыях.

Адрозніваліся разнастайнасцю арганізацыйных форм, якія адпавядалі ўмовам і задачам барацьбы на розных этапах развіцця партыз. руху. Найбольш распаўсюджанымі формамі былі групы і атрады П. р. Ствараліся таксама рэзервовыя каманды, узводы, роты, дружыны. Своеасаблівай формай з'яўляліся баявыя рэзервовыя падраздзяленні, якія арганізоўваліся ў населеных пунктах партыз. зон для падтрымання там парадку, абароны жыхароў ад фаш. карнікаў. Патрыёты, якія былі ў П. р., знаходзіліся на спісачным уліку ў партыз. атрадах і брыгадах (у дакументах і літаратуры трапляецца найменне «скрытыя», «тайныя» рэзервы).

На тэр. Беларусі П. р. пачалі фарміравацца ў перыяд зараджэння і станаўлення баявых атрадаў і груп партызан летам — восенню 1941 — зімой 1941—42. Найбольш хуткі рост іх адзначаўся ў раёнах з моцнымі ачагамі партыз. руху. У ходзе развіцця нар. барацьбы ў тыле ворага нарастаў прыток насельніцтва ў партыз. атрады і іх рэзервы. Вял. ролю ў гэтым адыграў загад наркома абароны Сталіна ад 5.9.1942 «Аб задачах партызанскага руху», у якім указвалася, што трэба павесці справу так, каб не было ні аднаго горада, вёскі, населенага пункта на акупіраванай тэрыторыі, дзе б не існавала ў скрытым выглядзе баявога рэзерву партызан, колькасна не абмежаванага. Гэта ўсе сумленныя грамадзяне, якія жадалі вызваліцца ад ням.-фаш. ярма. На Беларусі да пач. 1943, паводле даных БШПР, у П. р. налічвалася 151 тыс. чал., ці ў 5 разоў больш, чым у ліст. 1942. Колькасны склад партыз. фарміраванняў Беларусі за гэты ж перыяд павялічыўся амаль на 100 тыс. чал., пераважна з П. р. У той жа час раслі і П. р. ў выніку няспыннага папаўнення. Да пач. 1944 у іх было больш за 100 тыс. чал.

Усяго за гады вайны праз П. р. прайшлі амаль 400 тыс. жыхароў Беларусі. Яны адыгралі вял. ролю ў пашырэнні і ўмацаванні сувязі партызан і падпольшчыкаў з насельніцтвам, з'яўляліся жыватворнай сілай усенар. партыз. руху ў гады Вял. Айч. вайны. *П. П. Ліпіла.*

**ПАРТЫЗА́НСКІЯ РЭ́ЙДЫ,** баявыя маршы партыз. фарміраванняў на акупіраванай тэр. з мэтай дэзарганізацыі тылу праціўніка, развіцця партыз. руху, перадыслакацыі ў новыя раёны дзеяння, тактычнага манеўра ў час баёў з ворагам. Рэйды давалі магчымасць праводзіць баявую, разведвальную, масава-паліт. і арганізацыйную работу, садзейнічалі пашырэнню ўсенар. барацьбы супраць ням.-фаш. захопнікаў. Многія рэйды ажыццяўляліся па заданню парт. органаў і штабоў партыз. руху.

Найбольш пашыраныя віды рэйдаў бел. партызан — рэйды па замкнёным маршруце (кальцавыя) з вяртаннем на ранейшае месца дыслакацыі, па перабазіраванню ў новыя раёны дзеяння, рэйды-разведкі. Адзін з першых кальцавых рэйдаў — баявы марш у сак. 1942 партызан Мінскай, Пінскай і Палескай абл. (больш за 400 чал.) па тэр. Любанскага, Старобінскага, Ганцавіцкага, Чырвонаслабодскага, Ленінскага, Жыткавіцкага р-наў — працягваўся тры тыдні. Ажыццёўлены пад кіраўніцтвам Мінскага падп. абкома КП(б)Б, паскорыў утварэнне вял. партыз. зоны на Пд Мінскай вобл. У маі 1942 рэйд па тэр. Суражскага, Лёзненскага, Аршанскага, Багушэўскага і Віцебскага р-наў зрабіла брыгада «Аляксея» (275 партызан); за час рэйду ў брыгаду ўлілося каля 200 байцоў. У ліст. 1942 па кальцавых маршрутах зрабілі агітацыйна-прапагандысцкія рэйды па пайд. раёнам Мінскай і Палескай абл. партыз. атрады А. Я. Абабкава, М. С. Арцюшкі, А. М. Калакіна, А. І. Патрына, Р. І. Плышэўскага, А. Е. Папругі, М. Б. Храпко, А. І. Шубы пад агульным кіраўніцтвам Мінскага падп. абкома КП(б)Б. Рэйды працягваліся больш за месяц, у ходзе іх партызаны ахапілі масава-паліт. работай (мітынгі, сходы, лекцыі, гутаркі, калектыўныя чыткі), прысвечанай 25-й гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі, усе насел. пункты зоны сваіх дзеянняў. 300-кіламетровы кальцавы рэйд па тэр. Сенненскага, Багушэўскага, Віцебскага, Бешанковіцкага, Чашніцкага, Лепельскага і Халопеніцкага р-наў ажыццявіла з канца студз. да 1.4.1943 брыгада 1-я імя Заслонава (больш за 500 партызан). Тактычныя рэйды праводзілі партыз. фарміраванні ў час барацьбы з карнікамі (рэйд брыгады Багушэўскай у жн. 1942, брыгады «Чэкіст» у вер. 1942, Пінскага партыз. злучэння ў лют. 1943). У снеж. 1942 вораг акружыў Нараўлянскі партыз. атрад імя Кірава і батальён укр. партызан. 15.1. 1943 партызаны прарваліся на У, фарсіравалі р. Прыпяць і каля в. Амелькаўшчына Хойніцкага р-на злучыліся з Гомельскім партыз. злучэннем. Да 27.1.1943 партызаны вялі баі з ворагам, потым атрады імя Кірава, «Бальшавік», «За Радзіму», «Смерць фашызму», імя Варашылава, імя Чапаева пачалі рэйд у напрамку Акцябрска-Любанскай партыз. зоны. Яны прайшлі па тэр. Лоеўскага, Рэчыцкага і Парыцкага р-наў, перасеклі 2 чыгункі, двойчы фарсіравалі р. Пціч, разграмілі гарнізоны ворага ў в. Пружынішчы, Гарохавішчы, Карма, Чэрнін, Уюпішчы. 1.2.1943 у пас. Рудобелка злучыліся з брыгадай 123-й і разам адбілі націск карнікаў. На нарадзе ў в. Сасноўка [удзельнічалі сакратары ЦК ЛКСМБ М. В. Зімянін, К. Т. Мазураў, камандзір Мінскага партыз. злучэння Р. Н. Мачульскі, сакратар Палескага падп. абкома КП(б)Б Ф. М. Языковіч] вырашана вярнуць рэйдавыя фарміраванні ў свае раёны дыслакацыі. Гомельскае злучэнне з 22.2.1943 прадоўжыла рэйд у Рэчыцкі р-н. Атрад імя Кірава прайшоў больш за 500 км і ў пач. крас. 1943 праз Любанскі і Капаткевіцкі р-ны вярнуўся на былое месца дыслакацыі.

У пач. ліп. 1942, паводле рашэння ЦК КП(б)Б ад 23.4.1942, праз *Віцебскія «вароты»* выйшлі ў варожы тыл і пачалі рэйды атрады «Бясстрашны» ў Дрысенскі, «Граза» ў Талачынскі, «Бальшавік» і «Перамога» ў Крычаўскі, «Быстры» ў Аршанскі, «Мсцівец» у Ветрынскі, «Знішчальнік» у Уздзенскі, «Бура» і «Смерць фашызму» ў Смалявіцкі, «Гвардзеец» у Крупскі, «За Радзіму» ў Магілёўскі, «Меч» у Добрушскі р-ны. У 1942 з-за лініі фронту рэйдамі прайшлі атрад маскоўскіх камсамольцаў імя Гастэлы, атрады «За Савецкую Беларусь», імя Кірава, «Сокал», брыгада 1-я Мінская. Партызаны кав. атрада «Баявы» ажыццявілі 700-кіламетровы рэйд ад Віцебскіх «варот» да Чэрвеньскага р-на. Атрад «Мсцівец» за 37 дзён (з 29.12.1942) прайшоў ад с. Усвяты Калінінскай вобл. да Рудзенскага р-на Мінскай вобл. Большасць рэйдавых атрадаў з-за лініі фронту ішла ад Віцебскіх «варот» праз чыгункі Віцебск — Невель каля ст. Бычыха, Полацк — Віцебск каля ст. Обаль і Зах. Дзвіну, Ушацкі, Бягомльскі р-ны, воз. Палік, Плешчаніцкі р-н, чыгунку і шашу Мінск — Масква паміж Жодзінам і Смалявічамі. Прыблізна гэтым шляхам праходзілі партызаны баявымі рэйдамі за лінію фронту. Так, у ліп.— кастр. 1942 за лінію фронту прабівалася партыз. брыгада М. М. Нікіціна. За 4 месяцы брыгада прайшла па тэр. Баранавіцкай, Мінскай і Віцебскай абл. шлях у 1300 км, пастаянна вяла баі з праціўнікам. У час рэйду забілі і паранілі больш за 2,5 тыс. гітлераўцаў, знішчылі 32 аўтамашыны, 3 танкі, пусцілі пад адхон 3 эшалоны, збілі 6 самалётаў; брыгада прымала ўдзел у разгроме фаш. гарнізона ва Ушачах (гл. *Ушацкі бой 1942*).



Партызаны ідуць на баявое заданне. Гомельская вобл.

Гал. месца ў планах БШПР, распрацаваных у адпаведнасці з пастановай ЦК КП(б)Б ад 23.6.1943 «Аб мерапрыемствах па далейшым разгортванні партызанскага руху ў заходніх абласцях Беларусі», займалі рэйды партыз. фарміраванняў на З, у недастаткова асвоеныя партызанамі раёны. Адзін з першых — рэйд у 1942 3-га атрада брыгады 2-й Бел. імя Панамарэнкі. Да кастр. 1943 у Вілейскую вобл. перадыслацыраваліся 3 брыгады і 7 асобных атрадаў (больш за 2260 партызан). 24.6.1943 з Расонскага р-на Віцебскай вобл. ў Пастаўскі р-н Вілейскай вобл. выйшла брыгада імя Ракасоўскага. У ноч на 27.6.1943 партызаны з боем перайшлі чыгунку Полацк — Дрыса, фарсіравалі Зах. Дзвіну, 1.7.1943 разам з атрадам «Кастрычнік» штурмавалі варожы гарнізон у Міёрах. У ліп. брыгада (больш за 700 партызан), зрабіўшы 200-кіламетровы рэйд, выйшла ў раён дыслакацыі. Брыгада імя Жукава 10.7. 1943 пачала рэйд з в. Клясціцы Расонскага р-на, перасекла чыгунку Полацк — Рыга, фарсіравала Зах. Дзвіну і выйшла ў раён в. Шпакоўшчына Ветрынскага р-на. 19 ліп. разграміла гарнізон у в. Курылавічы, фарсіравала Дзісну і 28 ліп. прыбыла (каля 250 партызан) да месца дыслакацыі ў Браслаўскі р-н. У пач. кастр. 1943 з Расонскага р-на ў Дзісенскі прыйшла брыгада 4-я Беларуская. У жн. 1943 з Любанскага р-на Мінскай вобл. ў Брэсцкую вобл. перадыслацыраваўся зводны атрад імя Сільніцкага. 1.9.1943 пачаўся баявы рэйд (1000 км) Беластоцкага партыз. злучэння (744 партызаны). 21.10.1943 партызаны злучэння ў раёне Бярозы-Картузскай падарвалі чыг. палатно, перасеклі шашу, чыгунку і падышлі да раёнаў баявых дзеянняў, вызначаных ЦК КП(б)Б і ЦШПР, потым (без брыгад імя Чапаева і «У імя Радзімы») перасеклі чыгунку Баранавічы — Ваўкавыск, фарсіравалі Шчару і выйшлі да Нёмана. 1.11.1943 злучэнне прыбыло ў Шчучынскі р-н, у сярэдзіне ліст. каля в. Новы Двор і Бершты вяло цяжкія баі з ворагам, фарсіравала Нёман і разгрупавала свае сілы ў Ружанскай і Ліпічанскай пушчах (Брэсцкая і Баранавіцкая вобл.), утварыўшы пайд. і пайн. групоўкі. За час рэйду ў зах. абласцях БССР (4.9—10.11.1943) атрад «Бясстрашны» прайшоў па тылах ворага каля 1000 км, пусціў пад адхон больш за 40 эшалонаў. Рэйд брыгады «За Радзіму» імя Флегантава (19.9—14.12.1943) з Чэрвеньскага ў Маларыцкі р-н быў працягам рэйду кав. атрада «Баявы». Брыгада прайшла каля 860 км, фарсіравала 13 рэк і каналаў, перасекла 19 шашэйных дарог і 4 чыгункі (3 з боем), прайшла праз 162 населе-

ныя пункты, у якіх партызаны праводзілі сходы, распаўсюджвалі газеты і лістоўкі. У пач. рэйду ў брыгадзе было каля 400 партызан, на дзень злучэння з Чырв. Арміяй — 747. Атрад 345-ы прайшоў (5.10—20.12.1943) праз 12 раёнаў з Бярэзінскага да Бярозаўскага р-на. Брыгада 8-я (946 байцоў) за час рэйду (5.12.1943—26.1.1944) з Круглянскага р-на Магілёўскай вобл. перадыслацыравалася ў Мінскую вобл., потым у Косаўскі р-н Брэсцкай вобл. Брыгада 150-я імя Языковіча (450 байцоў) за час рэйду з Капаткевіцкага р-на Палескай вобл. з 7.12.1943 да 1944 прайшла 600 км і заняла абарону на Дняпроўска-Бугскім канале. Брыгада 99-я імя Гуляева (360 байцоў) выступіла 5.12.1943 з в. Слаўкавічы Глускага р-на і ў канцы студз. 1944 прыбыла ў Целяханскі р-н. 50 сутак (з 11.12.1943) працягваўся рэйд партыз. палка 208-га імя Сталіна (1100 байцоў). Полк з боем перасек шашу і чыгунку Мінск — Асіповічы, Варшаўскую шашу, чыгунку Слуцк — Асіповічы, фарсіраваў р. Арэса і ў канцы студз. 1944 заняў абарону ў Целяханскім р-не. Да зімы 1943—44 баявымі рэйдамі выйшлі ў зах. вобласці БССР 12 брыгад, 14 асобных атрадаў (больш за 7 тыс. партызан). Партыз. фарміраванні замацаваліся ў Баранавіцкай, Брэсцкай, Вілейскай, Беластоцкай абл., разам з мясцовымі партызанамі ўтварылі ўздоўж зах. граніц Беларусі амаль суцэльны партыз. фронт.

Асобнае месца ў рэйдах партызан Беларусі займаў рэйд-разведка. У ліп.— жн. 1942 рэйдам-разведкай (600 км) прайшоў па 11 раёнах Віцебскай, Мінскай і Вілейскай абл. атрад «Арол» брыгады 2-й Бел. імя Панамарэнкі. Атрад пасылаў разведгрупы ў Літву і Латвію, наладзіў сувязь з 19 партыз. атрадамі і групамі, перадаваў ЦК КП(б)Б звесткі аб ваен., эканамічным і паліт. становішчы ў зах. абласцях Беларусі і Прыбалтыкі. У ліп.— кастр. 1943 зрабіў рэйд атрад А. Дз. Гурко брыгады 1-й Беларускай (1-га складу). Ён прайшоў з баямі ад Шчалбоўскіх лясоў (Суражскі р-н) да паўн. граніц Мінскай вобл., фарсіраваў Зах. Дзвіну, перасек шашу і чыгункі Смаленск — Віцебск, Орша — Віцебск. Колькасць партызан за гэты час павялічылася, створаны 2 новыя атрады. Баявыя рэйды 2-й пал. 1943—пач. 1944 — частка ваенна-аператыўнага манеўра па раяніраванню партыз. сіл.

Па тэр. Беларусі баявымі рэйдамі прайшлі партыз. фарміраванні Смаленскай, Калінінскай, Арлоўскай абл., Украіны, Малдавіі, Літвы і Латвіі. Восенню 1942 па паўд. раёнах Беларусі прайшлі злучэнні С. А. Каўпака і А. М. Сабурава, разам з бел. партызанамі яны грамілі варожыя гарнізоны ў Лоеве, Хойніках, Юравічах, Нароўлі, на ст. Аўрамаўская. У пач. 1943 па Лёзненскім і Віцебскім р-нах, з крас. 1943 па Магілёўскай вобл. рэйдаваў партыз. полк «Трынаццаць». У чэрв.— жн. 1943 злучэнне Я. І. Мельніка перайшло з Палесся ў раён Вінніцы. Двойчы ў 1944 па зах. абласцях БССР прайшло баявым рэйдам партыз. злучэнне П. П. Вяршыгары. Поспех партыз. рэйдаў быў забяспечаны дапамогай мясцовага насельніцтва, братняй баявой садружнасцю.

*В. С. Лазебнікаў, У. С. Пасэ.*

**ПАРТЫЗА́НСКІЯ ФАРМІРАВА́ННІ,** умоўная назва форм арганізацыі ўзброеных партыз. сіл, як *партызанскае злучэнне, партызанская брыгада, партызанскі полк, партызанская група*, а таксама партыз. ўзвод, рота, батальён і інш.

**ПАРТЫ́ЙНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ,** сістэма парт. органаў і арг-цый КП(б)Б, якія дзейнічалі на часова акупіраванай ням.-фаш. захопнікамі тэр. БССР. З'яўлялася састаўной часткай парт. падполля, якое функцыяніравала на захопленай ням.-фаш. войскамі тэр. СССР і ажыццяўляла ідэйна-паліт. і арганізацыйнае кіраўніцтва ўсенароднай барацьбой супраць акупантаў. Асн. задачы П. п. выкладзены ў *дырэктыве СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 29.6.1941 партыйным і савецкім арганізацыям прыфрантавых абласцей і ў пастанове ЦК ВКП(б) ад 18.7.1941 «Аб арганізацыі барацьбы ў тыле германскіх войск»*.

Выконваючы ўказанні ЦК ВКП(б), Цэнтральны Камітэт КП(б)Б прыняў *дырэктыву ЦК КП(б)Б ад 30.6.1941 аб падрыхтоўцы да пераходу на падпольную работу партарганізацый раёнаў, якія знаходзіліся пад пагрозай фашысцкай акупацыі*, дзе абавязаў першых сакратароў абкомаў, гаркомаў і райкомаў партыі загадзя стварыць падп. парт. органы і ячэйкі для арганізацыі барацьбы з акупантамі. *У дырэктыве ЦК КП(б)Б ад 1.7.1941 партыйным, савецкім і камсамольскім арганізацыям па разгортванню партызанскай вайны ў тыле ворага* ўказвалася, што «ўсе камуністы і камсамольцы, здольныя насіць зброю, застаюцца на тэрыторыі, занятай ворагам» (меліся на ўвазе тыя, хто па якіх-небудзь прычынах не быў прызваны ў РСЧА або не атрымаў інш. заданняў парт. органаў). У выключна складаных умовах прыфрантавой палосы (тэр. Беларусі была поўнасцю акупіравана да канца жн. 1941) к-ты КП(б)Б здолелі ў 89 раёнах Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай, Гомельскай, Палескай і Пінскай абл. арганізацыйна аформіць раённыя падп. парт. органы (райкомы, тройкі) на чале з сакратарамі або членамі бюро райкомаў партыі, а ў Гомельскай, Магілёўскай, Мінскай, Палескай і Пінскай абл.— абласныя падп. парт. органы. Толькі ЦК і абкомы КП(б)Б падабралі і накіравалі для арганізацыі падп. і партыз. барацьбы 1215 камуністаў, у т. л. 8 сакратароў абкомаў, 120 сакратароў гаркомаў і райкомаў партыі. Групы камуністаў колькасцю ад 40 да 80 чал. у кожным р-не былі пакінуты для падп. работы таксама большасцю райкомаў партыі ўсходніх абласцей рэспублікі. Так, у Віцебскай, Гомельскай, Магілёўскай і Палескай абл. было створана 397 тэрытарыяльных (у населеных пунктах) парт. арг-цый, якія ў выпадку акупацыі павінны былі перайсці на нелегальнае становішча (такія арг-цыі меліся таксама ў Мінскай і Пінскай абл.). Значная колькасць камуністаў знаходзілася ў саставе створаных загадзя партыз. атрадаў і груп. Усяго летам 1941 для работы ў тыле ворага было пакінута каля 8 тыс. камуністаў (напярэдадні вайны ў рэспубліканскай арг-цыі было больш чым 75 тыс. членаў). У Баранавіцкай, Беластоцкай, Брэсцкай і Вілейскай абл. у сувязі з хуткім прасоўваннем праціўніка колькі-небудзь знач. работы па падрыхтоўцы да барацьбы ў тыле ворага правесці не ўдалося.

Аднак толькі нямногія з ліку створаных загадзя парт. органаў і арг-цый змаглі разгарнуць сваю дзейнасць ва ўмовах акупацыі. Асн. прычыны гэтага: палітыка жорсткіх рэпрэсій акупантаў; адсутнасць у большасці пакінутых у тыле ворага вопыту работы ў нелегальных умовах; недаацэнка ролі парт. падполля асобнымі работнікамі, якія пайшлі ў Чырв. Армію, мяркуючы, што там змогуць больш эфектыўна змагацца з ворагам, і інш. У кастр.— снеж. 1941 становішча П. п. яшчэ больш ускладнілася: адсутнічала двухбаковая сувязь падп. парт. органаў і ЦК КП(б)Б, узніклі праблемы з забеспячэннем зімовай вопраткай, абуткам, харчамі. У выніку ўсяго гэтага да канца снеж. 1941 на акупіраванай тэр. Беларусі дзейнічалі толькі 2 абл. і 15 гар. і раённых падп. парт. органаў. У 7 раёнах работу вялі асобныя сакратары райкомаў партыі. З ліку створаных загадзя парт. арг-цый змаглі замацавацца толькі нямногія.

З першых тыдняў акупацыі ў тыле ворага ішоў таксама працэс стварэння падп. парт. органаў і арг-цый па ініцыятыве камуністаў, якія ў выніку розных абставін аказаліся на акупіраванай тэрыторыі: мясцовых членаў партыі, што не атрымалі канкрэтных указанняў парт. органаў, многіх камуністаў-ваеннаслужачых, якія трапілі ў акружэнне. Так узніклі Мінскі падп. гарком, Уздзенскі партком, парт. цэнтр у Брэсце і інш. парт. к-ты, многія арг-цыі.

З пач. 1942 разгарнулася работа па ўстанаўленню ўстойлівай двухбаковай сувязі ЦК КП(б)Б з П. п., падбору кадраў, здольных ва ўмовах жорсткага акупац. рэжыму ўзначаліць парт. органы, арганізаваць і павесці за сабой камуністаў, камсамольцаў і беспарт. патрыётаў. 31.1. 1942 ЦК КП(б)Б прыняў пастанову аб мерах па паляпшэнні сувязі і кіраўніцтва падп. парт. арг-цыямі і партыз. атрадамі Беларусі. Значную работу па ўстанаўленні сувязі з П. п., партыз. фарміраваннямі, перапраўцы на акупіраваную тэр. кадраў правяла

*Пайночна-Заходняя аператыўная група ЦК КП(б)Б*. Да лета 1942 ЦК КП(б)Б устанавіў трывалую сувязь з П. п. і партыз. фарміраваннямі Віцебскай вобл., з Мінскім падп. абкомам КП(б)Б, у чэрв.— з падполлем і партыз. фарміраваннямі Магілёўскай вобл., з восені 1942 — з Гомельскім падп. абкомам КП(б)Б. Да канца 1942 праз 68 рацый, якія працавалі ў варожым тыле, ЦК КП(б)Б і *Беларускі штаб партызанскага руху* падтрымлівалі рэгулярную сувязь з большасцю падп. парт. органаў і партыз. атрадаў Беларусі.

Кіруючыя кадры П. п. падбіраліся з ліку камуністаў, якія ведалі ўмовы Беларусі, але знаходзіліся на парт.-паліт. рабоце ў сав. тыле, у радах Чырв. Арміі [з дазволу ЦК ВКП(б) і Дзяржаўнага Камітэта Абароны яны адклікаліся ў распараджэнне ЦК КП(б)Б], а таксама з ліку тых, хто праявіў сябе ў барацьбе з ворагам на акупіраванай тэрыторыі. Накіраваныя з сав. тылу кадры праходзілі падрыхтоўку ў спецшколах ЦШПР і БШПР. Значную ролю ў гэтым адыграў створаны ЦК КП(б)Б у крас. 1942 *Асобы беларускі збор*. П. п. будавалася ў адпаведнасці з задачамі, якія яно павінна было выконваць у тыле ворага, з канкрэтнымі ўмовамі кожнай вобласці, горада, раёна. Парт. работнікі ў большасці накіроўваліся на месцы ў якасці ўпаўнаважаных ЦК КП(б)Б па абласцях, групах раёнаў, асобных раёнах. Абапіраючыся на мясцовых камуністаў, якія актыўна ўдзельнічалі ў барацьбе з ворагам, яны фактычна адразу выконвалі функцыі падп. парт. органаў. Пасля правядзення работы па падбору кадраў і арганізацыйным афармленні падп. абкомаў, міжраённых парт. органаў, райкомаў партыі ўпаўнаважаныя ЦК КП(б)Б звычайна зацвярджаліся іх сакратарамі. У некаторыя раёны для стварэння райкомаў і кіраўніцтва падполлем і партыз. рухам накіроўвалі сваіх упаўнаважаных і падп. абкомы партыі. І ўпаўнаважаныя, і падп. парт. органы ў першую чаргу ўстанаўлівалі сувязь з існуючымі, стваралі новыя парт. арг-цыі галоўным чынам у партыз. атрадах і брыгадах. Да пач. 1943 намаганнямі ЦК, абкомаў, міжрайкомаў КП(б)Б была створана сетка падп. парт. органаў, якая ахоплівала сваім уплывам большую частку тэр. рэспублікі: у тыле ворага дзейнічалі Віцебскі, Гомельскі, Мінскі і Пінскі абласныя, 4 міжраённыя, гарадскі і 42 раённыя парт. органы. Яшчэ ў 53 раёнах парт. падполле ўзначальвалі ўпаўнаважаныя ЦК і абкомаў КП(б)Б. Асабліва вял. работа была зроблена ва ўсх. абласцях, дзе дзейнічала 46 парт. органаў. Па няпоўных звестках у гэты час на тэр. Беларусі арганізатарскую і паліт. работу ў масах вялі 472 пярвічныя парт. арг-цыі (144 тэрытарыяльныя і 328 у партыз. атрадах і брыгадах), на ўліку ў якіх было больш за 8,5 тыс. камуністаў.

Значную ролю ў развіцці П. п. і партыз. руху на Беларусі адыграў *лютаўскі Пленум ЦК КП(б)Б 1943*, на якім разгледжана пытанне «Аб абстаноўцы і задачах работы партыйных органаў і партыйных арганізацый у акупіраваных раёнах Беларусі». Прааналізаваўшы вынікі 20-месячнай дзейнасці па арганізацыі і развіцці ўсенар. барацьбы супраць ням.-фаш. захопнікаў, пленум падкрэсліў неабходнасць працягваць стварэнне падп. цэнтраў, к-таў, арг-цый КП(б)Б, накіраванне ў тыл праціўніка ўпаўнаважаных парт. органаў, «якія нясуць перад ЦК адказнасць за палітычную работу і партызанскі рух ва ўсіх абласцях, раёнах і гарадах Беларусі». У адпаведнасці з рашэннем Палітбюро ЦК ВКП(б) (кастр. 1942) для больш аператыўнага кіраўніцтва барацьбой з акупантамі пленум зацвердзіў ваен.-паліт. састаў ЦК у колькасці 22 чал. У яго былі ўведзены новыя таварышы, якія паказалі сябе ў барацьбе з ворагам на акупіраванай тэрыторыі. Кіруючыся рашэннем Палітбюро ЦК ВКП(б), пленум даручыў ЦК КП(б)Б ваен. часу стварыць падп. ЦК КП(б)Б і вызначыць яго месцазнаходжанне. Аднак, як паказала практыка, неабходнасць у гэтым адпала. П. п. і партыз. фарміраванні мелі ўстойлівую сістэму пастаяннай радыё- і авіясувязі з Масквой. Члены ваен.-паліт. саставу ЦК маглі ў любы час звязацца па радыё або вылецець у тыл ворага, выклікаць кіраўнікоў падп. парт. органаў і партыз. фарміраванняў у Маскву. ЦК КП(б)Б, выконваючы рашэнні пленума і не аслабляючы парт.-арганізацыйнай работы ва ўсх. абласцях, дзе да лета 1943 фарміраванне падп. парт. органаў было завершана, асн. ўвагу аддаў расшырэнню і ўмацаванню сеткі П. п. ў зах. абласцях БССР. У чэрв. 1943 ЦК КП(б)Б накіраваў у парт. арг-цыі пісьмо «Аб ваенна-палітычных задачах работы ў заходніх абласцях БССР». У сак.— жн. 1943 у сав. тыле былі сфарміраваны і накіраваны на акупіраваную тэр. саставы Баранавіцкага, Беластоцкага, Брэсцкага і Вілейскага падп. абкомаў, якія разгарнулі ў тыле ворага парт.-арганізацыйную работу. Улічваючы востры недахоп у гэтых абласцях парт. кадраў, ЦК КП(б)Б сумесна з БШПР падабралі і накіравалі ў распараджэнне падп. абкомаў дзесяткі арганізатарскіх груп на чале з вопытнымі парт. работнікамі, сярод якіх многія працавалі раней у варожым тыле. Пры фарміраванні падп. парт. органаў шырока выкарыстоўваліся парт.-паліт. работнікі Чырв. Арміі, якія трапілі ў акружэнне і актыўна змагаліся з ворагам у партыз. атрадах. Усё гэта дазволіла да канца 1943 — пач. 1944 завяршыць у асн. стварэнне сеткі падп. парт. органаў і ў зах. абласцях рэспублікі. Стварэнне новых пярвічных парт. арг-цый працягвалася да вызвалення Беларусі, што было звязана з ростам партыз. атрадаў і прыёмам у рады партыі лепшых партызан і падпольшчыкаў.

Усяго ў 1941—44 на акупіраванай тэр. Беларусі дзейнічалі 10 абкомаў, 17 міжрайкомаў і міжрайпартцэнтраў, 8 гаркомаў, 2 гаркомы-райкомы і 166 райкомаў КП(б)Б, больш за 1200 пярвічных парт. арг-цый у партыз. атрадах і брыгадах і 184 тэрытарыяльныя, у радах якіх змагаліся супраць акупантаў больш як 35 тыс. камуністаў [гл. *Абласныя падпольныя камітэты КП(б)Б, Міжраённыя падпольныя камітэты КП(б)Б, Міжраённыя падпольныя партыйныя цэнтры, Гарадскія падпольныя камітэты КП(б)Б, Раённыя падпольныя камітэты КП(б)Б*]. Падп. парт. органы і арг-цыі ахоплівалі сваім ідэйным і арганізацыйным уплывам практычна ўсё насельніцтва рэспублікі і сталі той сілай, абапіраючыся на якую партыя, яе ЦК узнялі сотні тысяч людзей на свяшчэнную барацьбу супраць фашызму, забяспечылі нарастаючы ўзровень і напал усенар. барацьбы (гл. *Усенародная барацьба ў тыле ворага, Камсамольска-маладзёжнае падполле, Антыфашысцкія арганізацыі*). Ва ўмовах падполля парт. к-ты выдавалі друкарскім спосабам і з дапамогай найпрасцейшай размнажальнай тэхнікі больш за 160 газет (гл. *Друк падпольны*).

Фарміраванне П. п., яго структура і дзейнасць ажыццяўляліся ў адпаведнасці з ленінскімі арганізацыйнымі прынцыпамі, рэгламентаваліся асн. патрабаваннямі Статута ВКП(б). Ва ўмовах падполля ў парт. органах узмацніўся арганізацыйны цэнтралізм, падпарадкаванне ніжэйстаячых органаў вышэйстаячым было асабліва строгім. Як правіла, на акупіраванай тэр. адсутнічала прадугледжаная Статутам партыі выбарнасць і справаздачнасць парт. к-таў. Саставы абкомаў і міжрайкомаў падбіраліся і зацвярджаліся ЦК КП(б)Б, саставы гаркомаў і райкомаў — абл. і міжраённымі к-тамі партыі з наступным зацвярджэннем ЦК КП(б)Б. Аднак там, дзе дазвалялі ўмовы, парт. органы імкнуліся дзейнічаць у адпаведнасці са статутнымі патрабаваннямі. Асобныя райкомы былі выбраны адкрытым галасаваннем на раённых падп. парт. канферэнцыях і сходах (Дрысенскі, Клічаўскі, Чэрыкаўскі), на сходах парт. актыву і парт. арг-цый (Бярэзінскі, Дзісенскі, Столінскі, Талачынскі і інш.). П. п. будавалася паводле тэрытарыяльна-вытворчага прынцыпу. Кожны падп. парт. к-т дзейнічаў у межах сваёй вобласці, раёна (групы раёнаў), горада ў адпаведнасці з даваен. адм.-тэрытарыяльным падзелам. Падпольныя абкомы КП(б)Б з'яўляліся паўнамоцнымі прадстаўнікамі партыі ў адпаведных

абласцях і кіравалі тут усёй узброенай барацьбой і парт.-паліт. работай. Новым звяном у сістэме парт. органаў ва ўмовах акупацыі з'явіліся міжраённыя падп. к-ты КП(б)Б [міжрайпартцэнтры КП(б)Б], якія ажыццяўлялі парт. кіраўніцтва на тэр. некалькіх раёнаў. Дзейнасць міжраённых парт. органаў не была разлічана на працяглы перыяд. Пасля стварэння ў адпаведных раёнах падп. райкомаў міжраённыя парт. органы або спынялі сваю дзейнасць, або працягвалі існаваць некаторы час разам з райкомамі, дапамагаючы іх станаўленню. Створаныя па-за рамкамі парт. Статута, міжраённыя падп. парт. органы — прыклад творчай ініцыятывы, арганізацыйнай гібкасці партыі, якая ўмела перабудоўвала сваю структуру ў адпаведнасці з пераменамі ўмоў. Асн. звяном у сістэме парт. кіраўніцтва барацьбой супраць акупантаў і паліт. работай у тыле ворага, былі падп. райкомы КП(б)Б.

Падпольныя абкомы, міжрайкомы і райкомы Кампартыі Беларусі вялі сваю работу пад аховай партыз. атрадаў і брыгад, базіраваліся разам з імі. Звычайна сакратар райкома з'яўляўся адначасова камісарам або камандзірам брыгады (атрада). Гэта дазваляла эфектыўна спалучаць парт.-паліт. і ваенна-арганізатарскую дзейнасць. На тэр. Беларусі вёў работу і шэраг падп. гаркомаў КП(б)Б. Так, Мінскі падп. гарком значны час базіраваўся ў горадзе. Але, як паказаў вопыт, гэта было звязана з вял. цяжкасцямі і ахвярамі. Таму створаныя ў 1943—44 гаркомы размяшчаліся па-за гарадамі, дзейнічалі пад прыкрыццём партыз. брыгад і атрадаў і па сваёй структуры нічым не адрозніваліся ад райкомаў. Падп. пярвічныя парт. арг-цыі ў адпаведнасці з парт. Статутам будаваліся па вытворчым (у партыз. атрадах) або па тэрытарыяльным (у населеных пунктах) прынцыпе. Пераважная большасць іх была створана непасрэдна ў тыле ворага. У 1941—42 асн. частка тэрытарыяльных парт. арг-цый узнікла па ініцыятыве камуністаў, што па розных прычынах аказаліся на акупіраванай тэрыторыі. Парт. арг-цыі партыз. атрадаў у гэты перыяд ствараліся пераважна пад кіраўніцтвам парт. органаў. У 1943—44 фарміраванне парт. арг-цый у партыз. атрадах і тэрытарыяльных адбывалася пад кіраўніцтвам парт. органаў, яно праходзіла больш мэтанакіравана і планамерна. Былі дасягнуты поспехі ў выкананні ўказання лютаўскага Пленума ЦК КП(б)Б аб пранікненні ў гарады і інш. населеныя пункты і стварэнні там падп. парт. арг-цый. Большасць камуністаў знаходзілася ў партыз. фарміраваннях. Парт. арг-цыі былі створаны амаль ва ўсіх партыз. атрадах, як правіла, яны з'яўляліся пярвічнымі. Міжрайкомы і райкомы сачылі за расстаноўкай камуністаў у атрадах, забеспячэннем парт. ўплыву на важнейшых участках баявой дзейнасці. Частка камуністаў вяла барацьбу супраць акупантаў у складзе тэрытарыяльных парт. арг-цый. Працэс іх стварэння быў складаны, звязаны з вял. небяспекай. За памылку даводзілася расплачвацца жыццём. У выніку такія арг-цыі былі невялікія. У канцы 1943 — пач. 1944 з набліжэннем лініі фронту і ўскладненнем абстаноўкі большасць тэрытарыяльных парт. арг-цый спыніла сваё існаванне. Іх члены ішлі ў партыз. атрады і ўліваліся ў састаў іх парт. арг-цый.

Унутранае жыццё і дзейнасць парт. арг-цый партыз. фарміраванняў будаваліся на прынцыповых палажэннях Статута ВКП(б). Тут захоўваліся патрабаванні ўнутрыпарт. дэмакратыі, строгай дысцыпліны, выбарнасці і справаздачнасці. Кіраўніцтва арг-цыямі ажыццяўлялі сакратары, а пры наяўнасці 15 і больш чалавек — бюро, якія выбіраліся на агульным сходзе камуністаў адкрытым галасаваннем. Парт. арг-цыі і іх сакратары зацвярджаліся вышэйстаячымі падп. парт. к-тамі. Сходы, як правіла, праводзіліся 1—2 разы ў месяц. Унутрыпарт. жыццё ў тэрытарыяльных парт. арг-цыях будавалася па-іншаму: сходы праводзіліся толькі ў выпадку крайняй неабходнасці, дакументацыя была мінімальнай. Кіравалі імі асабіста сакратары райкома або спецыяльна вылучаныя інструктары, што было выклікана найстражэйшай канспірацыяй. Некаторая колькасць членаў і кандыдатаў у члены партыі, якія прымалі ўдзел у барацьбе з акупантамі. не ўваходзіла ў састаў пярвічных парт. арг-цый (у тым выпадку, калі для іх стварэння не хапала патрабуемай Статутам колькасці камуністаў). Яны, як правіла, вялі работу непасрэдна пад кіраўніцтвам падп. парт. органаў.

Камуністы знаходзіліся на рашаючых участках барацьбы з акупантамі. На 1.7.1943 члены і кандыдаты ў члены партыі складалі каля 90 % кіруючых кадраў партыз. атрадаў і больш за 96 % — брыгад. Калі агульныя страты партызан забітымі і параненымі за гады барацьбы ў тыле ворага склалі каля 10 % ад іх колькасці, то сярод камуністаў — больш як 15 %.

П. п. было цесна звязана з народам. Камуністы карысталіся вял. уплывам і бязмежным даверам партызан і насельніцтва. Сведчанне гэтаму — рост парт. радоў за кошт лепшых партызан і падпольшчыкаў на працягу ўсяго перыяду акупацыі. На акупіраванай тэр. Беларусі прыём у партыю праходзіў у адпаведнасці са Статутам ВКП(б). На партыз. атрады не распаўсюджваліся льготы, прадугледжаныя пастановамі ЦК ВКП(б) для тых франтавікоў, якія вызначыліся ў баях. І хоць гэта тармазіла рост падп. парт. арг-цый, за 3 гады ў іх рады на Беларусі ўлілося 12 500 патрыётаў. У падполлі і партызанах камуністамі сталі Героі Сав. Саюза камбрыгі К. С. *Заслонаў*, У. А. *Ціхаміраў*, сакратар падп. абкома ЛКСМБ П. М. *Машэраў*, камандзіры дыверсійных груп П. І. *Кавалёў*, Ф. П. *Котчанка*, Ф. А. *Малышаў*, У. А. *Парахневіч*, тысячы іншых партызан і падпольшчыкаў.

На працягу ўсяго перыяду акупацыі непасрэднае кіраўніцтва П. п. рэспублікі ажыццяўляў, кіруючыся дырэктывамі ЦК ВКП(б), *Цэнтральны Камітэт КП(б)Б*, яго сакратары М. Я. *Аўхімовіч*, У. Р. *Ванееў* (загінуў). І. П. *Ганенка*, Ц. С. *Гарбуноў*, П. З. *Калінін*, У. Н. *Малін*, П. К. *Панамарэнка*, М. І. *Прохараў*, І. І. *Рыжыкаў*, Р. Б. *Эйдзінаў*. Значную ролю ў стварэнні і развіцці П. п. адыгралі сакратары падп. абкомаў І. І. *Баброў* (загінуў), Ф. А. *Баранаў*, І. А. *Бельскі*, А. Ф. *Брагін* (загінуў), С. Р. *Вайцаховіч*, І. Дз. *Варвашэня*, І. Дз. *Вятроў*, Я. А. *Жылянін*, М. К. Зайцаў, В. І. *Казлоў*, І. Ф. *Клімаў*, А. Я. *Кляшчоў*, І. П. *Кожар*, А. А. *Куцак*, М. І. *Малінін*, А. А. *Манахаў*, Дз. С. *Маўчанскі*, Р. Н. *Мачульскі*, І. Б. *Пазнякоў*, М. І. *Пліс*, В. Е. *Самуцін*, С. І. *Сікорскі*, І. А. *Стулаў*, П. Г. *Шапавалаў* (загінуў), В. Я. *Чарнышоў*, М. В. *Шпак*, Ф. М. *Языковіч* (загінуў), сакратары падп. міжрайкомаў, гаркомаў і райкомаў КП(б)Б.

П. п., якое абапіралася на падтрымку нар. мас, было адной з найважнейшых умоў ператварэння акупіраванай тэр. Беларусі ў арэну ўсенар. барацьбы супраць ням.-фаш. захопнікаў, барацьбы за свабоду і незалежнасць сацыяліст. Радзімы. Гл. таксама арт. *Камуністычная партыя Беларусі.*

*А. А. Тозік.*

**ПАРЦЯ́НКА** Андрэй Антонавіч (23.2.1906, в. Дуброўка Крупскага р-на — 29.1.1945), Герой Сав. Саюза (1945). У 1941 на фронце, потым у партызанах на Беларусі. З жн. 1944 на 1-м Прыбалт. фронце. Кулямётчык мал. сяржант П. вызначыўся ў баях на тэр. Усх. Прусіі. 29.1.1945 пераправіўся цераз Куршскі заліў; на Куршскай касе з яго ўдзелам адбіта 6 контратак. Калі падраздзяленне трапіла ў акружэнне, П. абышоў праціўніка з фланга і адкрыў па ім агонь. Загінуў у баі. Пахаваны ў г. Клайпеда. Яго імем названы сярэдняя школа ў в. Дуброўка, дзе ён вучыўся, траўлер.

**ПАРШЧА́ХА,** вёска на тэр. Глускага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 8 км на ПнУ ад в. Яўсеевічы Завалочыцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жылі 83 чал. 19.1.1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 72 жыхароў, у т. л. 43 дзіцяці, вёску (26 двароў) спалілі, маёмасць разрабавалі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1970 на магіле ахвяр фашыз-

му і на месцы вёскі пастаўлены абеліскі. Вёска ўвекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ПАРЫЧЫ,** гар. пасёлак у Светлагорскім р-не, на р. Бярэзіна. За 33 км на ПнЗ ад Светлагорска, за 31 км ад чыг. ст. Светлагорск-на-Бярэзіне на лініі Жлобін — Калінкавічы, аўтадарогамі звязаны з Бабруйскам, Светлагорскам, Калінкавічамі. Прыстань на р. Бярэзіна. У 1924—60 цэнтр Парыцкага р-на. 3,7 тыс. жыхароў у 1939. У ноч на 23.6.1941 фашысты бамбілі П. 27 чэрв. сфарміраваны Парыцкі знішчальны батальён пад камандаваннем нач. райаддзела НКУС М. І. Траяна, батальён ахоўваў масты і пераправы цераз Бярэзіну, змагаўся з варожымі дыверсантамі і шпіёнамі. Абарончы рубеж Свіслач — Бабруйск — Парычы ўтрымліваў зводны атрад (3,7 тыс. чал.) на чале з камандзірам 47-га стралк. корпуса ген.-маёрам С. І. Паветкіным. 29 чэрв. воіны 55-й стралк. дывізіі (палпалк. Г. А. Тэр-Гаспаран) разграмілі матарызаваны атрад праціўніка, захапілі палонных, стварылі каля П. перадмастовае ўмацаванне і ўтрымлівалі яго. 5.7.1941 ням.-фаш. захопнікі акупіравалі П., аднак цяжкія баі ў раёне гар. пасёлка працягваліся да сярэдзіны ліпеня. 11 ліп. воіны 800-га стралк. палка, парыцкі і рэчыцкі знішчальныя батальёны выбілі гітлераўцаў з П. Камандзір 445-га ням. пяхотнага палка дакладваў: «У час бою яны трымаліся стойка і змагаліся фанатычна. У Парычы мы прыйшлі, амаль поўнасцю страціўшы сваю баяздольнасць». У канцы ліп. воіны 214-й паветрана-дэсантнай брыгады 4-га паветрана-дэсантнага корпуса вялі баі з 2 палкамі праціўніка на ПнЗ ад П. і на шашы Парычы — Бабруйск. Ням.-фаш. захопнікі ўстанавілі ў П. жорсткі акупацыйны рэжым, знішчылі ў П. і раёне 3271 чал., у т. л. ў гар. пасёлку 1700 чал. У маі 1942 партызаны Парыцкага атрада імя Кірава на шашы Парычы — Бабруйск знішчылі групу акупац. адміністрацыі Парыцкага р-на (25 чал.), у т. л. каменданта П., нач. жандармерыі і бургамістра. У гар. пасёлку і раёне дзейнічалі Парыцкія падп. РК КП(б)Б (крас.— 18.11.1943) і ЛКСМБ (1.3—18.11.1943), партыз. брыгады 123-я Акцябрская імя 25-годдзя БССР, імя Панамарэнкі, імя Чапаева (Гомельская вобл.), асобныя атрады І. С. Губіна і Парыцкі імя Кірава (гл. адпаведныя артыкулы). Вызвалены 26.6.1944 войскамі 105-га стралк. корпуса (ген.-маёр Дз. Ф. Аляксееў) 65-й арміі 1-га Бел. фронту і маракамі 2-га гвардз. дывізіёна бранякатэраў (капітан 3-га рангу А. І. Пяскоў) Дняпроўскай ваен. флатыліі ў ходзе *Бабруйскай аперацыі 1944*. У П. брацкая магіла сав. воінаў, на якой пастаўлены помнік, мемар. дошкі сав. воінам і байцам знішчальных батальёнаў, Герою Сав. Саюза А. М. *Пінчуку*. *В. В. Гетаў.*



А. А. Парцянка. У. М. Пасікаў.

**ПАСЕКАЎ** Міхаіл Аляксеевіч (15.9.1901, в. Обчае Пухавіцкага р-на — 16.1.1950), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1940. З 1924 на гасп. рабоце ў Палескай вобл. З жн. 1941 у Чырв. Арміі. У партызанах з жн. 1942: радавы, з кастр. 1942 камісар атрада, у чэрв. 1943 — чэрв. 1944 — *партызанскай брыгады імя С. М. Кірава,* адначасова ў кастр. 1941 — чэрв. 1944 сакратар Халопеніцкага падп. РК КП(б)Б. У 1944—49 на парт. рабоце ў Халопенічах.

**ПАСІКАЎ** Уладзімір Маркавіч (н. 10.8.1922, в. Нікольск Горацкага р-на), поўны кавалер ордэна Славы. З 1941 на Ленінградскім, 2-м і 1-м Укр. франтах. Камандзір аддзялення ўзвода разведкі сяржант П. вызначыўся ў баях на тэр. Румыніі і Польшчы. 31.5.1944 каля г. Ясы выявіў агнявыя кропкі праціўніка; 21.8.1944 у варожым тыле закідаў гранатамі будынак, дзе знаходзіліся гітлераўцы; 13.1.1945 у баі за г. Хмяльнік падняў байцоў у атаку і першы ўварваўся ў варожыя траншэі, знішчыў 6 і ўзяў у палон 4 гітлераўцаў. Жыве на радзіме.

**ПАСТАВЫ,** горад, цэнтр Пастаўскага р-на, на р. Мядзёлка. За 250 км на З ад Віцебска, чыг. станцыя на лініі Пабрадзе — Варапаева, аўтадарогамі звязаны з Відзамі, Нарачч у і аўтамагістраллю Полацк — Вільнюс. 3,4 тыс. жыхароў у 1939. 6.7.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія за гады акупацыі знішчылі ў горадзе і раёне 3688 чал. У горадзе і раёне дзейнічалі падп. камсамольска-маладзёжныя і маладзёжныя антыфаш. арг-цыі і групы (членам адной з іх была Герой Сав. Саюза Г. І. *Маслоўская*), Пастаўскія падп. райкомы КП(б)Б (17.10.1943—4.7.1944) і ЛКСМБ (24.12.1942—4.7.1944), партыз. брыгады 1-я Антыфашысцкая, імя Варашылава, імя Гастэлы, імя Ракасоўскага, асобны партыз. атрад імя Сталіна (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«За победу»*. Вызвалены 5.7.1944 воінамі 145-й (ген.-маёр П. А. Дзібрава), часткі сіл 156-й (ген.-маёр Ф. І. Грызлоў) стралк. дывізій 92-га стралк. корпуса, 377-га гвардз. цяжкага самаходнага арт. палка (палк. М. Я. Мамчур), 17-й зенітна-арт. дывізіі (палк. А. А. Еўдакімаў) 43-й арміі 1-га Прыбалт. фронту ў ходзе *Шаўляйскай аперацыі 1944*. У П. брацкія магілы сав. воінаў, сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму, на якіх пастаўлены помнікі; мемар. дошка ў гонар вызвалення горада. Працуе *Пастаўскі раённы краязнаўчы музей*. *В. В. Гетаў.*

**ПАСТАНОВА ЦК ВКП(б) АД 18.7.1941 «АБ АРГАНІЗАЦЫІ БАРАЦЬБЫ Ў ТЫЛЕ ГЕРМАНСКІХ ВОЙСК».** Выходзячы з указанняў У. І. Леніна па пытаннях партыз. вайны і папярэдняга вопыту парт. кіраўніцтва ёю, ЦК дапоўніў і канкрэтызаваў палажэнні аб разгортванні ўсенар. барацьбы ў тыле ворага, выкладзеныя ў *дырэктыве СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 29.6.1941 партыйным і савецкім арганізацыям прыфрантавых абласцей,* сфармуляваў яе прынцыпы. Былі ўсебакова абгрунтаваны характар, роля, месца, задачы, формы і метады партыз. руху ў агульнай узброенай барацьбе сав. народа супраць ням.-фаш. захопнікаў. «Задача заключаецца ў тым,— гаварылася ў пастанове,— каб ствараць нязносныя ўмовы для германскіх інтэрвентаў, дэзарганізаваць іх сувязь, транспарт і самі вайсковыя часці, зрываць усе іх мерапрыемствы, знішчаць захопнікаў і іх памагатых...». Партыз. барацьба была пры звана садзейнічаць Чырв. Арміі ў разгроме фаш. агрэсараў. ЦК ВКП(б) асабліва падкрэсліваў неабходнасць парт. кіраўніцтва ва ўсіх звеннях партыз. руху. Указвалася, што нараўне з партыз. атрадамі і дыверсійнымі групамі неабходна «разгарнуць сетку нашых бальшавіцкіх падпольных арганізацый на захопленай тэрыторыі для кіраўніцтва ўсімі дзеяннямі супраць фашысцкіх акупантаў». Падкрэслівалася важнасць уліку мясцовых умоў, канспірацыі, своечасовай адпрацоўкі сувязей парт. падполля з сав. тылам, матэрыяльна-тэхн. забеспячэння падп. арг-цый. Асабліва падкрэсліваўся важнейшы прынцып парт. кіраўніцтва — камуністы закліканы ўзнімаць масы на рашэнне пастаўленых задач сваім асабістым прыкладам, мужнасцю, стойкасцю. Уся дзейнасць парт. арг-цый у акупіраваных ворагам раёнах павінна была насіць ваенна-баявы характар. Прынцыповае значэнне мела ўказанне аб уключэнні ў нелегальныя ячэйкі таксама беспарт. працоўных, глыбока адданых ідэям Камуніст. партыі, Сав. улады, знаёмых з умовамі раёна, у які яны накіроўваюцца, здольных у цяжкіх умовах акупацыі весці барацьбу з ворагам. Гэта расшырала

базу падполля і яго ўплыў на разгортванне ўсенар. барацьбы супраць гітлераўцаў. Вялікія задачы ЦК ускладаў на парт. арг-цыі раёнаў, якія знаходзіліся пад пагрозай захопу праціўнікам. Ім рэкамендавалася своечасова праводзіць неабходную падрыхтоўку, перавесці частку камуністаў на нелегальнае становішча, арганізаваць старанную канспірацыю парт. падполля. ЦК патрабаваў ад рэсп., абл., гар. і раённых к-таў партыі і іх кіраўнікоў непасрэдна ўзначаліць стварэнне парт. падполля, арганізацыю ўсенар. барацьбы ў тыле ворага. Пастанова была разаслана ЦК кампартый саюзных рэспублік, парт. органам абласцей і раёнаў, якія былі акупіраваны і знаходзіліся пад пагрозай акупацыі. Пастанова стала баявой праграмай разгортвання ўсенар. барацьбы супраць ням.-фаш. захопнікаў у іх тыле. *У. І. Лемяшонак.*

**ПАСТАЎСКІ РАЁННЫ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ.** Адкрыты 26.2.1976 (з 1967 гісторыка-краязнаўчы музей на грамадскіх асновах). Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, размешчана ў 2 залах. Экспануюцца матэрыялы пра пачатковы перыяд вайны, пра ўзнікненне і разгортванне падполля і партыз. руху ў раёне: фатаграфіі сакратароў Вілейскага падп. абкома КП(б)Б І. Ф. *Клімава*, А. А. *Манахава*, Пастаўскіх падп. РК КП(б)Б і ЛКСМБ І. М. Яўмененкі, В. М. Асяненкі, лістоўкі, друкарскі станок, пішучая машынка, падп. газ. *«За победу»*, *«Сялянская газета»* і інш., фатаграфіі, дакументы, асабістыя рэчы, зброя, узнагароды ўдзельнікаў партыз. руху, у т. л. камандзіра брыгады імя Варашылава Героя Сав. Саюза Ф. Р. *Маркава*, нам. камісара па камсамольскай рабоце атрада імя Пархоменкі Героя Сав. Саюза Г. І. *Маслоўскай*, камандзіра атрада «Слава» Героя Сацыяліст. Працы В. М. Асяненкі, камандзіра атрада «Знішчальнік» У. Ц. Цабы, фатаграфіі, дакументы камсамольцаў-падпольшчыкаў Н. Асяненкі, Я. Брадовіча, А. Будзько, У. Ясюковіча і інш., камсамольскі сцяг в. Наваселкі, выратаваны настаўніцай Г. І. Дунец-Пашкевіч. Экспануюцца матэрыялы пра вызваленне горада і раёна воінамі 145-й стралк. дывізіі, у т. л. фатаграфіі Герояў Сав. Саюза А. К. Галубкова, В. П. Кірычука, М. П. Красільнікава, В. А. Сідарэнкі, ген.-маёраў П. А. Дзібрава, І. В. Кляро, земляка ген.-лейт. В. А. *Юшкевіча*, фатаграфіі і асабістыя рэчы землякоў — удзельнікаў Вял. Айч. вайны. *Л. Ц. Валетка.*

**ПАСТУХОЎ** Іван Паўлавіч (н. 24.11.1912, в. Скароднае Ельскага р-на), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Палескай вобл. Чл. КПСС з 1940. Скончыў Завочную ВПШ пры ЦК КПСС (1963). З 1929 на гасп. і сав. рабоце. У партызанах з жн. 1941: радавы, камандзір узвода, роты, атрада, з чэрв. 1943 камісар атрада, у кастр. 1943 — студз. 1944 камісар *партызанскай брыгады 37-й Ельскай*, адначасова ў кастр. 1943 — студз. 1944 сакратар Ельскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—73 на парт. і гасп. рабоце.

**ПАТАПАЎ** Аляксей Аляксеевіч (н. 9.10.1912, с. Веліжанка Панкрушыхінскага р-на Алтайскага краю), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1941. З 1933 на гасп. рабоце. У партызанах з восені 1941, камандзір групы. З мая 1942 сакратар Баранавіцкага антыфаш. к-та (гл. *Баранавіцкая акруговая антыфашысцкая арганізацыя*), з ліп. 1943 камісар партыз. атрада, з вер. 1943 камісар, у лютым — ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады імя Ленінскага камсамола*, адначасова з жн. 1943 сакратар Радунскага, з студз. 1944 Васіліцкаўскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—72 на сав., гасп. і пед. рабоце.

**ПАТАПЕНКА** Павел Захаравіч (12.7.1911, в. Гняздзілава Бешанковіцкага раёна — 23.8.1987), адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Віцебскай і Вілейскай абл. Чл. КПСС з 1943. Скончыў Віцебскі ветэрынарны ін-т (1934). З ліп. 1941 на Зах. фронце. У партызанах з сак. 1942: камандзір групы, нач. штаба, з вер. 1942 камандзір атрада, у кастр. 1943 — ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады 1-й Віцебскай* (2-га складу). З 1944 нач. ветэрынарнага аддзела, дырэктар лабараторыі, у 1962—76 гал. ветэрынарны ўрач упраўлення сельскай гаспадаркі Баранавіцкага райвыканкома.

**ПАТАПОВІЧ** Мікалай Іосіфавіч (н. 26.7.1922, в. Старына Смалявіцкага р-на), поўны кавалер ордэна Славы. У Айч. вайну ў партыз. брыгадзе «За Савецкую Беларусь» Мінскай вобл., з 1944 на фронце. Камандзір аддзялення разведкі сяржант П. вызначыўся ў баях на тэр. Літвы і Германіі. Каля г. Марыямпале (цяпер Капсукас) захапіў у ворага трактар з прычэпам, нагружаным боепрыпасамі і палявой поштай; 6.2.1945 у час разведкі абароны праціўніка з 4 байцамі знішчыў кулямёт з разлікам, 17 гітлераўцаў, 6 узяў у палон; 16.4.1945 у баях знішчыў варожы кулямёт з разлікам, 12 гітлераўцаў, захапіў мінамёт, склад з мінамі. Жыве і працуе ў Мінску.

**«ПАТРІЁТ РОДИНЫ»**, газета *Мінскага партыйнага падполля;* выдавала група А. А. Маркевіча са студз. да жн. 1942 на бел. і рус. мовах. Друкавалася на шапірографе на кватэры кіраўніка групы. Выйшла 8 нумароў (захавалася 3), тыраж 80—100 экз. Інфармавала мінчан аб падзеях на франтах, аб жыцці сав. тылу; ад імя парт. к-та заклікала не падпарадкоўвацца распараджэнням акупац. улад, байкатаваць іх мерапрыемствы, змагацца супраць ням.-фаш. захопнікаў, усяляла ўпэўненасць у перамозе над ворагам. Распаўсюджвалася членамі групы: Г. С. Ананьевай, В. Г. Івановым, Г. А. Мохавай, П. А. Саковічам, Л. Г. Флейшар.

**«ПАТРИОТ РОДИНЫ»**, газета, орган *Слуцкага падпольнага міжрайкома КП(б)Б*. Вядома 17 нумароў за 1.1—7.7.1943 на рус. мове. Рэдактар К. М. Клюйко.

**«ПАТРИОТ РОДИНЫ»**, газета, орган *Чыжаўскага падпольнага міжрайкома КП(б)Б*. Вядомы 3 нумары за 15.3—25.6.1944 на бел. і рус. мовах. Рэдактар А. І. Мурашка.

**«ПАТРЫЁТ РАДЗІМЫ»**, газета, заснавана ў 1931 пад назвай «Звязда на рубяжы». У час ням.-фаш. акупацыі орган Дрысенскага падп. РК КП(б)Б. Вядомы № 2 ад 7.10.1943 на бел. мове. З 1962 выдавалася пад назвай «Сцяг перамогі», з 1963 «Дзвінская праўда», орган Верхнядзвінскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**ПАЎДНЁВА-ПРЫПЯЦКАЕ ПАРТЫЗАНСКАЕ ЗЛУЧЭННЕ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Ельскага, Лельчыцкага, Мазырскага, Нараўлянскага і Тураўскага р-наў у маі 1943 — студз. 1944. Камандзір М. С. Дзьячэнка (да вер. 1943), А. М. Бяленчык (з вер. 1943), камісар Бяленчык; нач. штаба Р. С. Аўдзяйчук.

Створана загадам па *Палескім партызанскім злучэнні* ад 19.5.1943. Аб'ядноўвала асобныя партыз. атрады Ельскі, Мазырскі, імя Кутузава, імя Калініна, імя Кірава і «За Радзіму», агульнай колькасцю на дзень фарміравання 934 партызаны. У чэрв. 1943 арганізаваны новыя атрады — імя Суворава (Нараўлянскі), імя Суворава (Лельчыцкі). У ліп. — кастр. ў сувязі з ростам партыз. атрадаў у злучэнні арганізаваны партыз. брыгады 37-я Ельская, Мазырская імя Аляксандра Неўскага, Лельчыцкая і 27-я Нараўлянская імя Кірава (гл. адпаведныя артыкулы). *Партызанскі атрад Тураўскі «За Радзіму»*, дзейнічаў самастойна. На 1.12.1943 злучэнне налічвала 2612 партызан. Штаб злучэння размяшчаўся ў лесе, каля вёсак Лукаўцы, Маркаўскае і інш. Ельскага і Лельчыцкага р-наў. Пасадачныя пляцоўкі для самалётаў абсталёўваліся на ўсход ад р. Балотніца.

Партызаны злучэння вялі сістэматычныя баявыя дзеянні на чыгунках, шашэйных і грунтавых дарогах, а таксама зрывалі перавозкі грузаў па р. Прыпяць; у жн. — вер. 1943 удзельнічалі ў аперацыях масавага разбурэння чыгункі на ўчастку Мазыр — Ельск — Славечна. Разам з перадавымі часцямі Бел. і 1-га Укр. франтоў партызаны злучэння прымалі ўдзел у вызваленні г. Мазыр, г. п. Ельск, Нароўля, вёсак Верхні і Ніжні Млынок Нараўлянскага р-на, Замошша, Астрожанка, Сімонічы Лельчыцкага р-на, Бабры, Дразды, Козенкі, Скрыгалаў Мазырскага р-на.

Злучаліся з часцямі Чырв. Арміі па меры вызвалення раёнаў дыслакацыі

з 27.11.1943 да 31.1.1944 у складзе 4 брыгад і асобнага атрада агульнай колькасцю каля 3 тыс. партызан. Штаб злучэння выйшаў у сав. тыл разам з асн. сіламі 37-й Ельскай брыгады 16.1.1944.

*А. Л. Манаенкаў.*

**ПА́ЎЛАЎ** Васіль Уладзіміравіч (н. 31.12.1914, г. п. Манастыршчына Смаленскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Гомельскай і Магілёўскай абл. Чл. КПСС з 1939. Скончыў Магілёўскі пед. ін-т (1939). З 1932 на пед. рабоце. З жн. 1941 на падп. рабоце ў Рагачоўскім р-не. У партызанах з вер. 1942: радавы, з лют. 1943 камісар атрада, у ліп. 1943 — сак. 1944 камісар *партызанскай брыгады 8-й Рагачоўскай,* у маі — чэрв. 1944 — *партызанскага палка 255-га,* адначасова чл. Рагачоўскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—75 на парт. і пед. рабоце.



М. І. Патаповіч. Дз. Р. Паўлаў. І. М. Паўлаў. І. М. Паўловіч. Ф. І. Паўлоўскі. М. П. Пацееў.

**ПА́ЎЛАЎ** Дзмітрый Рыгоравіч (4.11. 1897, в. Ванюх, цяпер Паўлава Калагрыўскага р-на Кастрамской вобл.— ліп. 1941), Герой Сав. Саюза (1937), ген. арміі (1941). Чл. КПСС з 1919. Удзельнік 1-й сусв. і грамадз. войнаў. У Чырв. Арміі з 1919. Скончыў Омскую вышэйшую кав. школу (1922), Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1928), акадэмічныя курсы пры Ваен.-тэхн. акадэміі (1931). У 1931—33 камандзір механіз. палка ў Гомелі, 1934—36 — асобнай механіз. брыгады ў Бабруйску. Удзельнік нац.-рэв. вайны ў Іспаніі ў 1936—37, камандзір танк. брыгады. З 1937 нач. Аўтабранятанк. упраўлення РСЧА, арганізатар стварэння танка Т-34. Удзельнік баёў на р. Халхін-Гол у 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. З чэрв. 1940 камандуючы войскамі Зах. асобай ваен. акругі. Сумесна з камісіяй ЦК КП(б)Б распрацаваў мерапрыемствы па павышэнні пільнасці і мабілізацыйнай гатоўнасці ў прыгранічных абласцях, прынятыя 17.5.1941 Бюро ЦК КП(б)Б. Аднак І. В. Сталін забараніў іх ажыццявіць. З 22.6.1941 да 2.7.1941 камандуючы войскамі Зах. фронту. Ілжыва абвінавачаны, 22.7. 1941 засуджаны і расстраляны. Рэабілітаваны 31.7.1957 пасмяротна. Канд. у чл. ЦК ВКП(б) з 1939. Дэп. ВС СССР з 1940. Чл. ЦВК БССР у 1935—36.

**ПА́ЎЛАЎ** Іван Міхайлавіч (18.6.1918, с. Яўкіна Баштанскага р-на Мікалаеўскай вобл.— 30.5.1981), Герой Сав. Саюза (1945). Член КПСС з 1944. Беларус. Скончыў Варашылаўградскую ваен. авіяц. школу пілотаў (1941), Краснадарскае авіяц. вучылішча (1943). З 1943 на Паўн.-Каўказскім, 3-м і 4-м Укр. франтах. Камандзір звяна эскадрыллі штурмавога авіяпалка. Удзельнічаў у вызваленні Кубані, Таманскага паўвострава, Крыма, Малдавіі, Румыніі, Балгарыі, Югаславіі, Венгрыі, Аўстрыі, Чэхаславакіі. Зрабіў 154 баявыя вылеты на штурмоўку жывой сілы і баявой тэхнікі праціўніка. Да 1960 у Сав. Арміі. Да 1978 працаваў на з-дзе. Ганаровы грамадзянін г. Умань.

**ПА́ЎЛАЎ** Рыгор Кузьміч (28.11.1914, в. Іванаўка Знаменскага р-на Тамбоўскай вобл.—17.1.1982), адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Магілёўскай вобласці. Чл. КПСС з 1943. З чэрв. 1941 на Зах. фронце, удзельнік абароны Гродна. У партызанах з ліп. 1941: камандзір групы, з мая 1942 атрада, у кастр. 1943 — чэрв. 1944 *партызанскай брыгады 61-й.* З 1944 на сав. і гасп. рабоце.

**ПАЎЛО́ВІЧ** Іван Міхайлавіч (7.3.1896, в. Старое Сяло Мсціслаўскага р-на — 19.7.1944), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1919. У арміі з 1915, у Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз. вайны, потым у пагранічных войсках на Далёкім Усходзе. Скончыў Вышэйшую паграншколу НКУС (1928), Школу ўдасканалення камсаставу НКУС (1938). З 1943 на Цэнтр., Бел. і 1-м Бел. франтах. Удзельнік Курскай бітвы. Нам. камандзіра стралк. дывізіі палк. П. вызначыўся пры вызваленні Беларусі. 24.6.1944 падняў батальён на прарыў варожай абароны на р. Друць каля Рагачова і захапіў траншэі праціўніка, 29.6.1944 арганізаваў фарсіраванне р. Бярэзіна, у ліку першых уварваўся ў Бабруйск; 19.7.1944 на ПнЗ ад Брэста ўзначаліў полк, які адбіў атаку 60 варожых танкаў. Загінуў у гэтым баі. Яго імем названы вуліцы ў Мсціслаўлі і Хабараўску.

**ПАЎЛО́ЎСКІ** Мікалай Восіпавіч (27.1. 1903, Гродна — 25.10.1960), ген.-палкоўнік (1954). Чл. КПСС з 1942. У Чырв. Арміі з 1920. Скончыў Ваен. акадэмію Генштаба (1948). З 1942 на Закаўказскім, 1-м, 2-м Укр. і Забайкальскім франтах: нач. штаба ўмацаванага раёна, брыгады марской пяхоты, арміі, нач. аператыўнага аддзела і ўпраўлення штаба франтоў. Удзельнік абароны Кубані, бітвы за Каўказ, Новарасійска-Таманскай, Жытомірска-Бярдзічаўскай, Яска-Кішынёўскай, Дэбрэцэнскай, Будапешцкай, Венскай, Пражскай і Хінгана-Мукдэнскай аперацый. Пасля вайны на адказных пасадах у Сав. Арміі. Яго імем названа вуліца ў Гродне.

**ПАЎЛО́ЎСКІ** Фёдар Іларыёнавіч (27. 11. 1908, г. п. Міхайлаўка Запарожскай вобл.— 6.4.1989), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху на тэр. Палескай вобл., Герой Сав. Саюза (1941). Чл. КПСС з 1932. Скончыў палкавую кавалерыйскую школу (1932). Да вайны на парт. і сав. рабоце. З ліп. 1941 камандзір партыз. атрада «Чырвоны Кастрычнік» у Акцябрскім р-не, са студз. 1942 камандзір партыз. злучэння Акцябрскай зоны. У маі 1942— крас. 1943, кастр. 1943 - маі 1944 камандзір *партызанскай брыгады 123-й Акцябрскай імя 25-годдзя БССР,* якая да лют. 1943 насіла яго імя; адначасова з крас. 1943 чл. *Палескага падпольнага абкома КП(б)Б,* з ліст. 1943 — Акцябрскага падп. РК КП(б)Б. Званне Героя Сав. Саюза яму прысвоена ў ліку першых сав. партызан. У 1945—66 на сав. і гасп. рабоце.

**ПАЎНО́ЧНА-ЗАХО́ДНЯЯ АПЕРАТЫ́ЎНАЯ ГРУ́ПА ЦК КП(Б)Б,** рабочы орган ЦК КП(б)Б па кіраўніцтву парт. падполлем і партыз. атрадамі на акупіраванай тэр. Беларусі. Створана паводле пастановы ЦК КП(б)Б ад 20.3. 1942. Групу ўзначальваў сакратар ЦК КП(б)Б Р. Б. *Эйдзінаў;* у яе

ўваходзілі адказныя парт., сав. і камсам. работнікі: К. І. Бударын, А. С. Шаўроў, В. Р. Раманаў, М. В. *Зімянін*, М. І. Красоўскі, С. І. *Сікорскі* і інш. Асноўнымі задачамі групы было ўстанаўленне сувязі з падп. арг-цыямі і партызанскімі фарміраваннямі, якія дзейнічалі ў Віцебскай і паўн. раёнах Мінскай і Магілёўскай абл., аказванне дапамогі падпольшчыкам і партызанам, збор і апрацоўка разведвальнай інфармацыі аб варожым тыле. У сваёй рабоце група абапіралася на дапамогу ваен. саветаў 3-й і 4-й ударных армій, членамі якіх адпаведна былі 1-ы сакратар ЦК КП(б)Б П. К. *Панамарэнка* і 1-ы сакратар Віцебскага абкома КП(б)Б І. А. *Стулаў*. Узаемадзейнічала са штабамі Калінінскага фронту, 3-й і 4-й ударных армій. Знаходзілася ў в. Шэйна Тарапецкага р-на Калінінскай вобл. Вяла работу па перакідцы ў акупіраваныя раёны парт., камсам. работнікаў, арганізатараў партыз. руху, дастаўцы літаратуры, зброі, медыкаментаў. Удзельнічала ў стварэнні падп. райкомаў КП(б)Б, партыз. брыгад і атрадаў. Праз *Віцебскія «вароты»* пераправіла ў тыл ворага больш за 20 партыз. атрадаў, 102 арганізатарскія і 62 дыверсійныя групы агульнай колькасцю больш за 3 тыс. чал., больш за 5 тыс. адзінак стралк. зброі, шмат процітанк. ружжаў, боепрыпасаў, узрыўчаткі, мільёны экз. газет, лістовак, брашур, прыняла і накіравала ў сав. тыл тысячы грамадзян, эвакуіраваных з акупіраванай Беларусі. Філіялам апаратыўна-вучэбнага цэнтра пры апаратыўнай групе падрыхтавана больш за 600 падрыўнікоў. На падставе сабраных і абагульненых інфармацыйных матэрыялаў аб варожым тыле група выпусціла 16 апаратыўна-разведвальных зводак для ЦК КП(б)Б, ЦШПР, камандавання Калінінскага фронту, 3-й і 4-й ударных армій. Расфарміравана ў вер. 1942 у сувязі з утварэннем *Беларускага штаба партызанскага руху*.
*П. С. Паўлавец.*

**ПАХО́МАЎ** Мікалай Ільіч (17.4.1919, в. Вольшчына Гарадоцкага р-на — 29.3.1988), удзельнік партыз. руху на тэр. Гомельскай вобл., журналіст, бел. сав. гісторык. Канд. гіст. навук (1954), прафесар (1978). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Усебел. газетную парт. школу (1938), БДУ (1951), Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК КПСС (1954). У жн. 1942 — ліст. 1943 радавы і палітрук разведкі партыз. атрада імя Варашылава *партызанскай брыгады Рэчыцкай імя К. Я. Варашылава* (Гомельская вобл.). У маі — ліст. 1943 рэдактар газ. *«Гомельская праўда» Гомельскага падпольнага абкома КП(б)Б*. З 1943 на газетнай рабоце. З 1948 рэдактар газет «Гомельская праўда», «Віцебскі рабочы». У вер. 1956 — лютым 1968 сакратар Віцебскага абкома КПБ. У 1968—85 рэктар Мінскай ВПШ. Чл. ЦК КПБ у 1971—86. Дэп. ВС БССР у 1971—88.

**ПАЦАВАСЛАБО́ДСКІЯ БАІ́ 1943, 1944,** баі паміж партыз. палком 277-м і ням.-фаш. захопнікамі ў в. Пацава Слабада Кіраўскага р-на ў ноч на 29.10.1943, паміж тым жа палком, партыз. атрадам 278-м і ням.-фаш. захопнікамі ў вёсках Пацава Слабада і Малінаўка Кіраўскага р-на ў ноч на 23.3.1944.

У ноч на 29.10.1943 партызаны 277-га палка разграмілі Пацаваслабодскі гарнізон праціўніка. У выніку 2-гадзіннага бою быў поўнасцю знішчаны штаб 621-га ням. арт. палка, які размяшчаўся ў гарнізоне, захоплены яго дакументы, забіта і паранена больш за 100 гітлераўцаў.

Аперацыя ў ноч на 23.3.1944 па адначасовым разгроме ням.-фаш. гарнізонаў у вёсках Пацава Слабада і Малінаўка была падрыхтавана па ініцыятыве камандзіра Клічаўскай ВАГ І. З. *Ізох* і нач. штаба М. А. Баранава. Разведка партызан устанавіла, што ў в. Пацава Слабада, гарнізон якой налічваў каля 80 гітлераўцаў, прыбыў на адпачынак зенітны батальён 4-й танк. арміі; у гарнізоне в. Малінаўка, што знаходзіўся непадалёку, было каля 50 акупантаў.

Партызаны 277-га палка амаль адначасова атакавалі фаш. гарнізоны ў вёсках Пацава Слабада і Малінаўка, узвод 278-га атрада арганізаваў засаду ў в. Казулічы, каб не дапусціць падыходу варожых падмацаванняў. Ноччу партызаны бясшумна праніклі ў в. Пацава Слабада, акружылі дамы, дзе размяшчаліся акупанты. Раззброілі варожы патруль, закідалі гэтыя дамы гранатамі. У выніку раптоўнага налёту праціўнік не змог арганізаваць упартага супраціўлення. Контратака часткі Пацаваслабодскага гарнізона была паспяхова адбіта нар. мсціўцамі. У баі партызаны знішчылі 78 гітлераўцаў, 2 узялі ў палон, спалілі 35 аўтамашын, мотарамонтную майстэрню, шмат тэхнікі, захапілі 40 вінтовак, 3 кулямёты, 3 пісталеты, вял. колькасць боепрыпасаў, харчавання, медыкаменты. Страты партызан: 4 чал. забіты, 8 чал. паранена.
*М. Ф. Шумейка*

**ПАЦЕ́ЕЎ** Мікалай Паўлавіч (16.5.1919, г. Рагачоў — 27.9.1972), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1943. У Айч. вайну з 1941 на Паўд., Паўд.-Зах., Сталінградскім, Бранскім, 1-м Прыбалт., 3-м Бел. франтах. Удзельнік вызвалення Беларусі, Літвы, Латвіі, баёў на тэр. Усх. Прусіі. 17.9.1944 у баі на З ад г. Елгава танк. рота пад камандаваннем лейтэнанта П. спыніла наступленне праціўніка; за 4 сутак адбіла 28 варожых контратак, знішчыла 37 танкаў, П. з экіпажам — 9 танкаў. Да 1970 у Сав. Арміі, падпалкоўнік.

**ПАЧТАРО́Ў** Цімафей Аляксеевіч (н. 3.11.1913, в. Каласы Рагачоўскага р-на), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1940. Скончыў Севастопальскае ваенна-марское вучылішча берагавой абароны (1938). Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну ўдзельнік абароны Ленінграда, баёў з японскімі імперыялістамі. Афіцэр-аператар берагавой артылерыі штаба Петрапаўлаўскай ваенна-марской базы Ціхаакіянскага флоту маёр П. вызначыўся 18.8. 1945 пры высадцы дэсанта на востраве Шумшу. Батальён марской пяхоты пад яго камандаваннем высадзіўся на востраў, захапіў камандныя вышыні, штаб варожага батальёна, адбіў 3 контратакі, гэтым забяспечыў плацдарм для высадкі гал. сіл дэсанта. Да 1956 у ВМФ, палкоўнік. Імем П. названы мыс на востраве Шумшу.

Ц. А. Пачтароў. А. В. Пашкевіч.



**ПАШКЕ́ВІЧ** Аляксей Васілевіч (24.12. 1916, в. Аляксандраўка Гатчынскага р-на Ленінградскай вобл.— 28.8. 1967), Герой Сав. Саюза (1945), ген.-маёр авіяцыі (1957). Чл. КПСС з 1944. Скончыў Качынскую ваен. школу лётчыкаў (1940), Ваенна-паветраную акадэмію (1955). З 1943 на Бранскім, 1-м і 2-м Прыбалт., 3-м Бел. франтах. Камандзір эскадрыллі знішчальнага авіяпалка маёр П. удзельнічаў у баях пад Оршай, Мінскам, граміў праціўніка ў *мінскім «катле»*. Эскадрылля пад яго камандаваннем з ліп. 1943 да вер. 1944 зрабіла 686 баявых вылетаў, збіла 48 варожых самалётаў. П. зрабіў 115 баявых вылетаў, збіў 16 самалётаў праціўніка. Да 1959 у Сав. Арміі.

**ПАШКЕ́ВІЧ** Сцяпан Апанасавіч (н. 27.3.1921, Полацк), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1943. На фронце з 1941. Удзельнік Сталінградскай і Курскай бітваў, вызвалення Украіны, Малдавіі, Румыніі, Венгрыі, Чэхаславакіі, Югаславіі, Аўстрыі. Камандзір аддзялення асобнага матарызаванага пантонна-маставога батальёна сяржант П. вызначыўся на тэр. Венгрыі ў снеж. 1944. Аддзяленне на чале з П. пад агнём ворага пабудавала паром і за 7 рэйсаў пераправіла цераз Дунай некалькі падраздзяленняў з тэхнікай, гэтым

садзейнічала прарыву варожай абароны.

**ПАШКО́ЎСКІ БОЙ 1943,** бой паміж партыз. брыгадай 6-й Магілёўскай і ням.-фаш захопнікамі ў в. Пашкова Магілёўскага р-на 11.2.1943.

Падрыхтоўка да разгрому гарнізона ў в. Пашкова, у якім размяшчаўся 53-і паліцэйскі батальён, вялася з восені 1942. Праз падпольшчыкаў Магілёва партызаны ўстанавілі сувязь з 2 б. камандзірамі Чырв. Арміі і групай салдат батальёна Пашкоўскага гарнізона, якія пажадалі перайсці на бок партызан, каб загладзіць сваю віну перад Радзімай. Група добраахвотнікаў партызан (70 чал.) прайшла спец. падрыхтоўку па тактыцы бою ўнутры памяшкання.

Ноччу 11 лютага партызаны на чале з нач. штаба брыгады падпалк. С. Г. *Сідарэнка-Салдаценка,* якому было даручана кіраўніцтва гэтым боем, праніклі ў распалажэнне гарнізона, блакіравалі ўсе ўваходы і выхады з казармы і будынкі, дзе размяшчаліся афіцэры. У першыя хвіліны бою, які працягваўся 4,5 гадз унутры памяшкання, былі забіты 12 старшых ням. афіцэраў, потым задушана супраціўленне яшчэ адной групы гітлераўцаў, што вяла кулямётны і аўтаматны агонь праз дзверы і вокны дамоў. Група партызан, якая дзейнічала ў казармах, дзе размяшчаліся роты батальёна, захапіла каравульнае памяшканне з 2 станковымі кулямётамі, поўнасцю раззброіла салдат. У выніку бою партызаны знішчылі 65 гітлераўцаў, якія аказалі супраціўленне, 180 салдат батальёна разам з партызанамі пайшлі ў размяшчэнне брыгады; было захоплена 7 кулямётаў, 15 пісталетаў, 128 вінтовак, 4 аўтаматы, 11 коней, патроны, медыкаменты і шмат рознай ваен. маёмасці. Страты партызан: 1 загінуў, 10 паранена. *У. С. Пасэ.*

**ПЕНЯЗЬКО́Ў** Дзмітрый Нікандравіч (н. 26.9.1922, Гомель), Герой Сав. Саюза (1945). Чл КПСС з 1945. З 1943 на Цэнтр., Бел., 1-м і 2-м Бел. франтах. Удзельнік Курскай бітвы, вызвалення Беларусі, Польшчы. Камандзір роты лейтэнант П. вызначыўся пры фарсіраванні Одэра. 20.4. 1945 рота на чале з П. пераправілася цераз раку, захапіла плацдарм. 22.4.1945 пры ўзяцці вышыні П. першы дасягнуў яе і ўзняў чырвоны сцяг; адзін утрымліваў вышыню, знішчыў з кулямёта некалькі дзесяткаў гітлераўцаў. Пасля вайны ў Сав. Арміі, на адм.-гасп. рабоце.

С. А. Пашкевіч. Дз. Н. Пенязькоў. М. І. Перавознікаў. Ф. І. Перхаровіч. І. П. Першукевіч. А. В. Петрушэўскі.



**ПЕРАВЕ́ССЕ,** вёска на тэр. Хойніцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1 км на ПнЗ ад в. Масаны Радзінскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 35 чал. 23.5.1943, у час карнай аперацыі, фашысты (так званая «баявая група Шымана») загубілі 34 жыхароў, у т. л. 14 дзяцей, вёску (18 двароў) спалілі, маёмасць разрабавалі, хатнюю жывёлу забралі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1967 на магіле ахвяр фашызму пастаўлены абеліск. Вёска ўвекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ПЕРАВО́ЗНІКАЎ** Мікіта Іосіфавіч (27.1. 1908, в. Чачэвічы Быхаўскага р-на — 6.10.1966), поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПСС з 1950. З 1942 у партызанах, з 1944 на фронце. Пам. камандзіра стралк. ўзвода ст. сяржант П. вызначыўся пры вызваленні Польшчы. 19.8.1944 у час наступлення ў ліку першых уварваўся ў траншэі ворага, паранены не пакінуў поля бою; 21.12.1944 у варожым тыле на Віслянскім плацдарме закідаў гранатамі траншэю, знішчыў кулямётную кропку ворага, прыкрыў адыход групы разведчыкаў; 22.2.1945 у баі за г. Познань удзельнічаў у знішчэнні апорнага пункта ворага, адбіцці 2 контратак.

**ПЕРАКА́ЛЛЕ,** вёска на тэр. Акцябрскага р-на, знішчаная ням. фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1,5 км на ПнЗ ад в. Залессе Акцябрскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 115 чал. У крас. 1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 76 жыхароў, вёску (27 двароў) спалілі, маёмасць разрабавалі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1964 на магіле ахвяр фашызму пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**«ПЕРАМО́ГА»,** газета, орган Навамышскага падп. РК КП(б)Б. Выдома 15 нумароў за 10.2—3.7.1944 на бел. мове (асобныя нумары на бел. і рус. мовах). Рэдактар Б. А. Ржэўскі. Пасля вызвалення выдавалася да 1956 як орган Навамышскага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**ПЕРАПЕ́ЧКІН** Міхаіл Цітавіч (23.10. 1917, в. Дайлідава, Полацкі р-н — 5.8.1970), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1944. У пач. Айч. вайны на фронце. У партызанах з чэрв. 1942: у чэрв. 1942 — маі 1943 камандзір *партызанскай брыгады 47-й «Перамога»,* з жн. 1943 чл. Краснапольскага падп. РК КП(б)Б, з кастр. 1943 у распараджэнні БШПР. З 1944 у Сав. Арміі, у 1948—67 на парт. і гасп. рабоце.

**ПЕРАСЦЕ́НКА** Рыгор Іванавіч (н. 13.2. 1918, с. Паўлаўка Абаянскага р-на Курскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1970. З чэрв. 1941 у Чырв. Арміі. У партызанах з лютага 1942: з крас. 1942 камандзір атрада, у вер. 1943 — чэрв. 1944 камандзір *партызанскай брыгады 760-й імя М. Беразоўскага.* Пасля вайны на сав. рабоце, у 1954—78 на з-дзе ў Бабруйску.

**ПЕРАХО́ДЫ,** вёска на тэр. Слуцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1,5 км на Пд ад в. Жылін Брод Першамайскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыў 131 чал. 23.2.1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 116 жыхароў, вёску (26 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. На 24 магілах ахвяр фашызму ўстаноўлены абеліскі. У 1979 на месцы вёскі насыпаны курган, пастаўлены помнік. Вёска ўвекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ПЕРУНО́Ў** Васіль Кандратавіч (10.4. 1904, с. Іванаўскае Сальскага р-на Растоўскай вобл.— 9.12.1966), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1928. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КП(б)Б. З 1931 на парт., сав. і гасп. рабоце. З 1941 на Волхаўскім фронце. У партызанах з сак. 1942: камандзір групы, з чэрв. 1942 камісар атрада,

у ліст. 1942— вер. 1943 камісар *партызанскай брыгады імя Чырванасцяжнага Ленінскага камсамола,* з вер. 1943 у распараджэнні БШПР. З 1944 на парт., сав. і гасп. рабоце.

**ПЕРХАРÓВІЧ** Франц Іосіфавіч (28.5. 1894, в Заляддзе Докшыцкага р-на — 11.10.1961), ген.-лейтэнант (1945). Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1926. У арміі з 1915, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. У Айч. вайну з 1941 на Зах., Варонежскім, 1-м Укр., 1-м і 3-м Бел. франтах: камандзір стралк. палка, дывізіі, корпуса, камандуючы войскамі арміі. Удзельнік абароны Масквы, вызвалення Украіны, Беларусі, Польшчы, Вісла-Одэрскай і Берлінскай аперацый. Вызначыўся пры прарыве абароны праціўніка і фарсіраванні Віслы. Да 1951 у Сав. Арміі.

**ПÉРШАЯ ПАВÉТРАНАЯ ÁРМІЯ.** Сфарміравана 5.5.1942 на базе ВПС Зах. фронту ў складзе 5 дывізій. Уваходзіла ў склад Зах., з 24.4.1944 3-га Бел. фронту. У 1942 падтрымлівала наступленне войск фронту на юхнаўскім, гжацкім і ржэўскім напрамках, удзельнічала ў Ржэўска-Сычоўскай, Ржэўска-Вяземскай, Арлоўскай і Смаленскай аперацыях. Зімой 1943—44 армія дзейнічала на віцебскім і аршанскім напрамках, наносячы ўдары па чыг. эшалонах. У сак. 1943 у склад арміі ўключана французская авіяэскадрылля, пераўтвораная ў 1944 у полк *«Нармандыя — Нёман».* Летам 1944 у складзе 3-га Бел. фронту (18 авіядывізій) удзельнічала ў *Беларускай аперацыі 1944,* падтрымліваючы войскі фронту ў *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944, Мінскай аперацыі 1944, Вільнюскай аперацыі 1944* і Каўнаскай аперацыі. Яна прыкрывала войскі фронту пры фарсіраванні імі рэк Бярэзіна і Нёман, знішчала акружаныя войскі ворага ў раёне на У ад Мінска, а таксама калоны яго войск, якія адыходзілі. Падтрымлівала сав. войскі пры наступленні да граніц Усх. Прусіі, удзельнічала ва Усх.-Прускай аперацыі. Усяго за гады вайны армія зрабіла больш за 290 тыс. самалёта-вылетаў. За паспяховыя баявыя дзеянні і гераічныя подзвігі 3 авіяпалкі, 1 дывізія і 1 корпус арміі атрымалі найменні «Гвардзейскіх», 44 часці і злучэнні ўзнагароджаны ордэнамі СССР, 50 часцям і злучэнням прысвоены ганаровыя найменні, у т. л. 11 злучэнням і шэрагу часцей арміі — «Барысаўскіх», «Віцебскіх», «Лідскіх», «Мінскіх», «Маладзечанскіх» і «Аршанскіх». 17 747 воінаў арміі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі СССР. За мужнасць і гераізм 145 лётчыкам і штурманам арміі прысвоена званне Героя Сав. Саюза, з іх 17 чал. гэтага звання ўдастоены двойчы (у т. л. ўдзельнікі вызвалення Беларусі С. Амет-Хан, Л. І. *Бяда,* А. Я. Брандыс, І. А. Вераб'ёў, М. Г. Гарэеў, П. Я. *Галавачоў,* Я. М. *Кунгурцаў,* А. К. Нядбайла, М. І. Сямейка, М. Ц. Сцяпаніщчаў і Ц. Ц. *Хрукін*).

Камандуючыя: ген.-лейт. авіяцыі Ц. Ф. Куцавалаў (май — чэрв. 1942), ген.-маёр авіяцыі, з 17.3.1943 ген.-лейт. авіяцыі С. А. Худзякоў (чэрв. 1942 — май 1943), ген.-лейт. авіяцыі М. М. *Громаў* (май 1943 — чэрв. 1944), ген.-палк. авіяцыі Хрукін (ліп. 1944 — май 1945).

*М. І. Камінскі*

**ПЕРШУКÉВІЧ** Іван Пятровіч (17.2. 1912, в. Пятрэвічы Баранавіцкага р-на — 25.12.1980), Герой Сацыяліст. Працы (1943). Чл. КПСС з 1944. У 1929—34 працаваў у паравозным дэпо ст. Орша. У Айч. вайну машыніст паравознага дэпо ст. Кем, званне Героя прысвоена за заслугі ў забеспячэнні перавозак грузаў для фронту і нар. гаспадаркі. У 1947—69 машыніст-інструктар паравознага дэпо ў Баранавічах. Дэп. ВС БССР у 1947—59. Яго імем названа вуліца ў Баранавічах.

**ПЕТРАЧЫ́ХА,** вёска на тэр. Гарадоцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 4 км на У ад в. Халамер'е. Перад вайной у ёй жылі 64 чал. У ліст. 1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 21 жыхара, вёску (13 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ПЕТРУШЭ́ЎСКІ** Аляксандр Васілевіч (9.10.1898, г. Лунінец — 21.10.1976), Герой Сав. Саюза (1944), ген.-палк. (1954). Чл. КПСС з 1932. У арміі з 1916, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў ваен. акадэмію імя Фрунзе (1928) і Генштаба (1938). У 1938—41 нам. нач. штаба Бел. (Зах.) ваеннай акругі. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. З 1941 на Цэнтр., Бранскім, 1-м, 2-м і 3-м Укр. франтах: нач. штаба арміі, камандзір корпуса, камандуючы арміяй. Удзельнік Маскоўскай, Курскай бітваў, Варонежска-Касторненскай, Сеўска-Арлоўскай, Чарнігаўска-Прыпяцкай, Жытомірска-Бярдзічаўскай, Корсунь-Шаўчэнкаўскай, Уманскай, Дэбрэцэнскай, Будапешцкай, Балатонскай і Венскай аперацый. Стралковы корпус пад яго камандаваннем вызначыўся ў час прарыву абароны праціўніка на ПнЗ ад г. Ясы. Да 1960 у Сав. Арміі. Яго імем названы завулак у Лунінцы.

**ПЕ́ТРЫКАЎ,** горад, цэнтр Петрыкаўскага р-на, прыстань на р. Прыпяць. За 190 км на З ад Гомеля, за 13 км ад чыг. ст. Муляроўка на лініі Калінкавічы — Лунінец, на аўтадарозе Капцэвічы — Мазыр. З 1924 цэнтр раёна. 5,8 тыс. жыхароў у 1939. Акупіраваны 29.7.1941 ням.-фаш. захопнікамі, якія за гады акупацыі знішчылі ў горадзе і раёне 2572 чалавек. На тэр. раёна дзейнічалі Петрыкаўскія падп. райкомы КП(б)Б (18.8—21.10.1941; крас. 1943—6.7. 1944) і ЛКСМБ (1.1.1943—6.7.1944), *Петрыкаўская падпольная патрыятычная група,* партыз. брыгады 130-я Петрыкаўская, Мазырская імя Аляксандра Неўскага, 123-я Акцябрская імя 25-годдзя БССР, 125-я Капаткевіцкая, асобны партыз. атрад Петрыкаўскі (гл. адпаведныя артыкулы). Вызвалены 29.6.1944 у ходзе *Мінскай аперацыі 1944* воінамі 55-й стралк. дывізіі (палк. М. А. Андрусенка) 61-й арміі 1-га Бел. фронту, маракамі дэсантнага атрада (мал. лейтэнант М. П. Чалы) і 2-й брыгады рачных караблёў (капітан 2-га рангу У. М. Міцін) *Дняпроўскай ваеннай флатыліі.* У П. брацкая магіла сав. воінаў, партызан і падпольшчыкаў, магіла В. І. *Талаша,* на іх пастаўлены помнікі; помнікі Вызваліцелям, Талашу; мемар. дошка ў гонар падпольшчыкаў.

*Н. У. Капранава.*

**ПÉТРЫКАЎСКАЯ ПАДПÓЛЬНАЯ ПАТРЫЯТЫ́ЧНАЯ ГРУ́ПА.** Дзейнічала з крас. 1942 да студз. 1943 у Петрыкаве. Аб'ядноўвала 9 чал. Кіраўнік камуніст Ф. В. Кляўцоў. З восені 1942 выконвала заданні партыз. атрадаў Балотнікава (І. Н. *Глушко*) і М. Ф. Бабкова.

Падпольшчыкі вялі паліт. агітацыю сярод насельніцтва, прымалі па радыё і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, здабывалі ням. пропускі, спісы жыхароў, прызначаных для вывазу на катаргу ў Германію, звесткі пра варожы гарнізон, карныя экспедыцыі, фаш. агентуру. 29.1. 1943 падарвалі будынак гебітскамісарыята, знішчылі 12 рухавікоў для бранякатэраў, 3 аўтамашыны, сапсавалі 2 зенітныя гарматы і пайшлі з сем'ямі ў партыз. атрад Бабкова. У Петрыкаве ў гонар падпольшчыкаў устаноўлена мемар. дошка.

**ПЕТУШКÓЎ** Адам Захаравіч (22.4. 1918, в. Фядотава Буда Клімавіцкага р-на — 25.7.1976), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1944. Скончыў Ваен. акадэмію бранятанк. і механіз. войск (1947). З 1943 на 1-м Укр. фронце. Камандзір узвода танкаўтральшчыкаў ст. лейтэнант П. вызначыўся пры вызваленні Кіева. 3—4.11. 1943 забяспечыў праходы для танкаў у мінных палях, з ротай вызваліў в. Святошына, знішчыў арт. батарэю і каля 30 гітлераўцаў; 6.11.1943 знішчыў абоз (40 павозак), 4 аўтамашыны, больш за 100 гітлераўцаў. Да 1969 у Сав. Арміі, палкоўнік. Яго імем названа вуліца ў г. Клімавічы.

**ПЕТУШКÓЎ** Аляксей Свірыдавіч (н. 18.10.1913, г. Лісічанск Варашылаўградскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1937. Беларус. Скончыў Сталінградскую ваен. школу лётчыкаў (1936), Ваен. акадэмію Генштаба (1956). На фронце з 1941. Нам. камандзіра авіяпалка далёкага дзеяння, падпалкоўнік. З 1941 да крас. 1945 зрабіў 265 баявых вылетаў на бамбардзіроўку варожых аб'ектаў у Варонежы, Курску, Арле, Хар-

каве, Кіеве, Мінску, Таліне, Нарве, Пскове, Оршы, Кёнігсбергу, Бухарэсце, Данцыгу, Будапешце, Берліне. Да 1959 у Сав. Арміі, палкоўнік. Да 1977 на адм. рабоце.

**ПЕ́ТЭРС** Георгій Барысавіч (27.7.1897, Масква — 18.5.1978), ген.-маёр (1943), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1957. У Чырв. Арміі ка, Пухавіч, Старых Дарог, Дражна (Старадарожскі р-н), Шышчыц (Грэскі р-н), агульнае наступленне пачалося 2 чэрв. з Шацка ў напрамку в. Вяркалы, Пруцк, Кабылічы (Пухавіцкі р-н), з Пухавіч у в. Скрыль, Ліпск, Гарэлец, з Сінчы ў в. Любячка (Пухавіцкі р-н). Па шляху прасоўвання карнікаў атрады *партызанскай брыгады 2-й Мінскай*, асабліва імя Молатава і імя Кутузава засаднымі баямі на загадзя падрыхтаваных рубяжах стрымлівалі намнога большыя сілы праціўніка, забяспечваючы эвакуацыю насельніцтва і жывёлы. Праз 8 сусв., грамадз. і сав.-фінл. 1939—40 войнаў. У Айч. вайну з 1941 на Зах., Калінінскім, Карэльскім франтах: нач. штаба армій, франтоў, камандзір корпуса. Пасля вайны выкладчык Ваен. акадэміі Генштаба, у 1950—57 нам. нач. Генштаба Войска Польскага, да 1959 на адказных пасадах у Сав. Арміі.

**ПІЛАТО́ВІЧ** Станіслаў Антонавіч (25.9. 1922, в. Барок, Пухавіцкі р-н — 15.6. 1986), адзін з арганізатараў і кіраў-

А. З. Петушкоў. А. С. Петушкоў. Г. Б. Петэрс. А. С. Пешчанка. Б. А. Пігарэвіч. М. К. Піліпенка.



з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен.-інж. школу імя Камінтэрна (1924), Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1929). На фронце з 1941. Камандзір стралк. дывізіі П. вызначыўся ў Бел. аперацыі 1944: дывізія пад яго камандаваннем прарвала абарону праціўніка на аршанскім напрамку і 27.6.1944 першая ўступіла ў Оршу; у ліп. 1944 фарсіравала Нёман, захапіла плацдарм, на якім адбіла 30 контратак пяхоты і танкаў праціўніка. Да 1959 у Сав. Арміі.

**ПЕ́ШЧАНКА** Андрэй Сямёнавіч (н. 6.12.1921, Віцебск), Герой Сав. Саюза (1946). Чл. КПСС з 1944. Скончыў Віцебскі аэраклуб (1941), Чарнігаўскую ваен. авіяц. школу пілотаў (1942), Вышэйшыя афіцэрскія лётна-тактычныя курсы (1951). На фронце з 1943. Удзельнік вызвалення Украіны, Польшчы, Румыніі, Венгрыі, Аўстрыі, Чэхаславакіі. Камандзір звяна штурмавога авіяпалка лейтэнант П. зрабіў 150 баявых вылетаў на штурмоўку жывой сілы і баявой тэхнікі ворага, аэрадромаў і чыгунак. Да 1962 у Сав. Арміі, палкоўнік. Працуе ў Мінску на з-дзе ЭВМ.

**«ПІВО́НЯ»** («Pfingstrose»), умоўная назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партызан і мясцовага насельніцтва ў Пухавіцкім, Старадарожскім і Асіповіцкім р-нах 2—13.6.1944.

Праводзілася сіламі 9-й арміі групы армій «Цэнтр» з мэтаю акружэння партызан і лагераў, дзе ратаваліся жанчыны, дзеці і старыя ў раёне в. Кляцішын, Любячка, Омельна (Пухавіцкі р-н), захопу рабочай сілы, жывёлы і маёмасці. Разведвальна-баявыя дзеянні карнікі пачалі яшчэ ў сярэдзіне мая 1944 па меры канцэнтрацыі сіл у гарнізонах Шацдзён пасля напружаных баёў рэгулярным часцям вермахта ўдалося блакіраваць партызан і мясцовых жыхароў (каля 3 тыс. чал.) па лініі в. Зялёная Дуброва — Дрычын (Старадарожскі р-н) — р. Пціч — в. Востраў — Сінча (Пухавіцкі р-н) — Шышчыцы. Пяхотныя часці карнікаў падтрымлівала разведвальная і бамбардзіровачная авіяцыя.

Партызаны адыходзілі ў напрамку в. Суцін (Пухавіцкі р-н) — Крамок (Старадарожскі р-н) і ў ноч на 9 чэрв. навялі несапраўдную пераправу цераз р. Пціч у раёне в. Юравічы — Майсеевічы (Старадарожскі р-н), адцягнулі ўвагу карнікаў і фарсіравалі раку ў раёне в. Града (Асіповіцкі р-н), дзе схавалі насельніцтва на невял. лясным астраўку. Заняўшы кругавую абарону вакол лагера з цывільным насельніцтвам, партызаны на працягу сутак адбівалі націск гітлераўцаў, у ноч на 11 чэрв. прарвалі загараджальныя ланцугі праціўніка на дарозе в. Лавы — Церабуты (Старадарожскі р-н) і выйшлі з блакады ў Грэскія лясы. Карнікі ў ходзе аперацыі расстралялі 499 сав. грамадзян, захапілі для вывазу ў Германію 2344 чал., спалілі вёскі Зялёная Дуброва, Востраў, Рэпішча Асіповіцкага р-на, Омельна, Любячка, Кляцішын Пухавіцкага р-на і інш., забралі 997 галоў буйной рагатай жывёлы, 772 кані і інш. Па даных камандавання 2-й Мінскай партыз. брыгады гітлераўцы страцілі 65 чал. забітымі і паранёнымі. *У. С. Пасэ.*

**ПІГАРЭ́ВІЧ** Барыс Аляксеевіч (27.5. 1898, пас. Ільіно Веліжскага р-на Смаленскай вобл.— 7.10.1961), ген.-палкоўнік (1945). Чл. КПСС з 1940. Беларус. Скончыў Ваен. акадэмію Генштаба (1941). У арміі з 1915, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік 1-й нікоў камсам.-маладзёжнага падполля і партыз. руху ў Мінскай вобл., сав. дзярж. і парт. дзеяч, дыпламат. Чл. КПСС з 1944. Скончыў Баранавіцкі настаўніцкі ін-т (1952), Мінскі пед. ін-т (1956). У 1941 сакратар Гайнаўскага РК ЛКСМБ. У 1942—44 партызан атрада «Полымя» ў Пухавіцкім р-не, сакратар Пухавіцкага, Чэрвеньскага падп. райкомаў, *Мінскага падпольнага міжрайкома ЛКСМБ*. З 1944 на камсам. і парт. рабоце. З 1965 сакратар ЦК КПБ. З 1971 надзвычайны і паўнамоцны пасол СССР у ПНР. З 1978 нам. Старшыні СМ СССР. Чл. ЦК КПСС у 1971—81. Канд. у чл. ЦК КПБ у 1954—60, чл. ЦК КПБ у 1960—71 і з 1981. Канд. у чл. Бюро ЦК КПБ у 1961—62, чл. Прэзідыума ЦК КПБ у 1965—66, чл. Бюро ЦК КПБ у 1965—71. Дэп. ВС СССР у 1966—74, ВС БССР у 1959—67, у 1978—86.

**ПІЛІПЕ́НКА** Міхаіл Карнеевіч (н. 3.9.1924, в. Дубраўка Хоцімскага р-на), ген.-лейт. (1982), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС (1943). Скончыў Ваен. акадэмію сувязі (1953). З 1941 на Зах., Паўн.-Зах., Ленінградскім, Варонежскім, 1-м Укр. франтах, сувязіст, радавы. Вызначыўся 2.10.1943 у час пераправы цераз Днепро на Пд ад Кіева ў раёне с. Бортнічы і 5.10.1943 на Пн ад Кіева ў раёне Люцежа. Пад агнём праціўніка двойчы фарсіраваў раку, устанавіў тэлефонную сувязь з камандаваннем палка, карэкціраваў агонь артылерыі. На захопленым плацдарме з яго ўдзелам адбіты шматлікія контратакі ворага. У саставе перадавых падраздзяленняў удзельнічаў у вызваленні Кіева. Пасля вайны выкладчык, нач. Кіеўскага вышэй-

шага ваен. вучылішча сувязі. Ганаровы грамадзянін г. Кіева.

**ПІЛЮ́ТАЎ** Пётр Андрэевіч (23.12. 1906, в. Лучын Рагачоўскага р-на — 24.3.1960), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1939. У Чырв. Арміі з 1928. Скончыў 1-ю Ваен. школу авіятэхнікаў (1932), ваен. школу лётчыкаў (1935). Удзельнік выратавання чэлюскінцаў у 1934, баёў каля воз. Хасан у 1938, сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну з 1941 на Ленінградскім фронце: нам. камандзіра, штурман і камандзір знішчальнага авіяпалка. Вызначыўся ў баях пад Ленінградам. Суправаджаючы транспартныя самалёты, 17.12.1941 на Ладажскім воз. прыняў бой з 6 варожымі знішчальнікамі, 2 з іх збіў, на пашкоджаным самалёце адбіваў атакі, даў магчымасць транспартным самалётам ісці па курсу. За час вайны асабіста збіў 17 варожых самалётаў. Да 1955 у Сав. Арміі, палкоўнік. Яго імем названа вуліца ў Ленінградзе.

**ПІНСК,** горад абласнога падпарадкавання, цэнтр Пінскага р-на, у сутоку Піны і Прыпяці, за 175 км на У ад Брэста. Чыг. станцыя на лініі Брэст — Лунінец, вузел аўтадарог на Іванава, Івацэвічы, Лунінец, Столін. Рачны порт. У 1939—54 цэнтр Пінскай вобл., з 1940 цэнтр раёна. 35,9 тыс. жыхароў у 1939. У 1940—41 тут знаходзілася база *Пінскай ваеннай флатыліі*. 22.6.1941 створаны Пінскі знішчальны атрад (камандзір В. З. *Корж*), 26.6.1941 — першы ў вобласці партыз. атрад «Камарова» (Каржа, гл. ў арт. *Партызанская брыгада імя С. М. Будзённага*), які ўдзельнічаў у баях пад П. разам з часцямі Чырв. Арміі. Подступы да П. ўтрымлівалі часці 6-й стралк. дывізіі (палк. М. А. *Папсуй-Шапко*) і зводныя атрады 4-й арміі, якія адышлі ад Брэста. З ліп. яны былі аб'яднаны з часцямі 75-й стралк. дывізіі (ген.-маёр С. І. *Нядзвігін*), якая адышла ад Маларыты, пад агульным камандаваннем Нядзвігіна. З-за адсутнасці боепрыпасаў сав. воіны былі вымушаны адысці. 5.7.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў горадзе і раёне 108 тыс. чал., у т. л. ў П. ў 4 лагерах смерці больш за 59 тыс. сав. грамадзян. Дзейнічалі Пінскія парт.-камсам. падполле, падп. абкомы і гаркомы КП(б)Б і ЛКСМБ (гл. адпаведныя артыкулы), райкомы КП(б)Б (1.9.1943 — 30.3.1944) і ЛКСМБ (1.6. 1943—14.7.1944), *Пінскае партызанскае злучэнне*, а таксама 208-ы полк імя Сталіна, асобныя партыз. атрады Ганцавіцкі, Давыд-Гарадоцкі, Іванаўскі, Лунінецкі, «Сокалы», Столінскі, Целяханскі (гл. адпаведныя артыкулы), якія не ўваходзілі ў партыз. злучэнне. Выдавалася падп. абл. газ. *«Палеская праўда»*. 5.7.1944 часці Чырв. Арміі выйшлі ў раён Пінскіх балот, дзе гітлераўцы ў цяжкапраходных поймах рэк Прыпяці, Піны, Ясельды стварылі моцную лінію абароны. У вызваленні П. важная роля адводзілася ваен. маракам. У ноч на 12.7.1944 на паўд.-ўсх. ускраіне горада з караблёў *Дняпроўскай ваеннай флатыліі* быў высаджаны дэсант у складзе 1323-га стралк. палка 451-й стралк. дывізіі і атрад маракоў, які выбіў ворага з прыбярэжных умацаванняў і з жорсткімі баямі прасоўваўся да цэнтра горада. Небяспечнай была контратака праціўніка ў раёне паласы наступлення 2-га батальёна, калі яго танкі, самаходныя гарматы і пяхота прарваліся да Піны. Дэсантнікаў падтрымалі бранякатэры. Асабліва вызначыўся бранякатэр № 92, які вёў агонь з адкрытай пазіцыі, адсек пяхоту ад танкаў, але і сам трапіў пад моцны агонь ворага. Пераадольваючы ўпартае супраціўленне ворага, часці Чырв. Арміі паспяхова фарсіравалі Прыпяць, Ясельду, Піну. Вызвалены П. 14.7.1944 воінамі 55-й (палк. В. П. Шмыглеў), 55-й гвардз. (ген.-маёр А. П. Турчынскі), 397-й (палк. М. Ф. Андоньеў) стралк. дывізіі 89-га стралк корпуса, 415-й (палк. П. І. Машчалкоў), стралк. дывізіі, 38-й гвардз. (палк. А. І. Панамарэнка) гарматнай арт. брыгады 38-й інжынерна-сапёрнай брыгады (палк. А. М. Паўшук) 61-й арміі 1-га Бел. фронту, 1-й (капітан 2-га рангу С. М. Лялько), 2-й (капітан 2-га рангу У. М. Міцін) брыгад рачных катэраў, 1-га асобнага гвардз. дывізіёна бранякатэраў (капітан-лейт. І. П. Міхайлаў) Дняпроўскай ваен. флатыліі ў ходзе развіцця наступлення на баранавіцка-брэсцкім напрамку ў *Беларускай аперацыі 1944*. 18 часцям і злучэнням Чырв. Арміі нададзены ганаровыя найменні «Пінскіх» (гл. *Пінскія вайсковыя злучэнні і часці*). У П. брацкая магіла 155 сав. воінаў, маракоў і партызан, загінуўшых пры вызваленні горада, у т. л. Герояў Сав. Саюза Ц. І. Калініна і А. Ц. Кулікова. Тут створаны мемар. комплекс вызваліцелям, пастаўлены помнікі ахвярам фашызму, маракам, помнік і мемар. дошка В. З. *Харужай*, мемар. дошкі воінам-вызваліцелям, у гонар штаба Дняпроўскай ваен. флатыліі, падпольшчыкам, партызану У. Р. Нямытаву, на месцы стварэння партыз. атрада Каржа. *У. М. Якубоўскі.*

**ПІНСКАЕ ПАРТЫЗА́НСКАЕ ЗЛУЧЭ́ННЕ.** Дзейнічала пад кіраўніцтвам *Пінскага падпольнага абкома КП(б)Б*. Кіраўніцтва: упаўнаважаны ЦК КП(б)Б і БШПР па Пінскай вобл., сакратар Пінскага падп. абкома КП(б)Б А. Я. Кляшчоў, камандзіры злучэння В. З. Корж (ліст. 1942 — ліп. 1944), Кляшчоў (май — кастр. 1943, в. а.); нач. штаба М. С. Фядотаў (люты 1943 — ліп. 1944). У ліст. 1942 Пінскі падп. абком КП(б)Б стварыў штаб партыз. атрадаў Пінскай вобл., які да студз. 1943 наладзіў сувязь і аб'яднаў партыз. атрады Камарова (Каржа), імя Шчорса (у крас. 1943 перададзены *Брэсцкаму партызанскаму злучэнню*), В. А. Васільева, імя Кірава, імя Чапаева, А. І. Дамброўскага, імя Суворава, імя Лазо, «За Савецкую Беларусь», імя М. Ц. Шыша (усяго 1855 партызан),

Для кіраўніцтва партыз. рухам у Пінскім, Іванаўскім, Лагішынскім, Драгічынскім і Жабчыцкім р-нах у студз. 1943 створаны міжраённы штаб (у крас. 1943 скасаваны), у які ўваходзілі 1-ы сакратар Іванаўскага падп. РК КП(б)Б Ф. С. Куньскоў, М. Л. Праходскі, С. Ц. Бандарэнка. Для арганізацыі партыз. руху і аб'яднання асобных груп і атрадаў у Столінскі і Давыд-Гарадоцкі р-ны ў пач. мая 1943 была накіравана група (14 чал.) на чале з Х. І. Севасцьянчыкам і П. П. Тамілавым.

У 1943 у складзе злучэння сфарміравана 7 брыгад: імя Будзённага, імя Леніна, імя Молатава, імя Кірава, імя Куйбышава, Пінская, «Савецкая Беларусь» і асобны (штабны) атрад імя Чуклая (гл. адпаведныя артыкулы); усяго 8431 партызан. У лютым — сак. і 7—14.7.1944 злучылася з Чырв.



Мітынг-парад партызан, прысвечаны вызваленню г. Пінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. 1944.

Арміяй. Кляшчову і Каржу прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

**ПІНСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала ў Пінску з вер. 1941 да снеж. 1943 пад кіраўніцтвам *Пінскага падпольнага абкома КП(б)Б*, Пінскіх падп. гаркома і РК КП(б)Б (з вер. 1943). Аб'ядноўвала больш за 50 падпольшчыкаў, у т. л. 7 камуністаў. З вер. 1941 дзейнічалі падп. групы на мармеладнай ф-цы (кіраўнік І. А. Галамазава), у прыгарадзе Казлякавічы (Я. А. Шаламіцкі, з чэрв. 1942 М. І. Чалей). У кастр. 1941 створана група на фанерным з-дзе і запалкавай ф-цы (кіраўнік М. М. Калодзіч), у ліст. 1941 — на рачным флоце (М. І. Гарбачэўскі, з крас. 1943 Л. В. Прытулецкі).

Падпольшчыкі прымалі па радыё, размнажалі і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі, накіроўвалі папаўненне да партызан, праводзілі работу па разлажэнню варожых фарміраванняў, рабілі дыверсіі. Яны вывелі са строю 12 рухавікоў рачных суднаў і 11 папапілі,

П. К. Раін падклаў міны ў ням. магазін і ў афіцэрскі шпіталь, Я. В. Ярмальчук падпаліў лесапільны з-д, Каратышэўскі ўзарваў вадакачку, І. В. Невар — рухавік на электрастанцыі запалкавай ф-кі. Патрыёты здабывалі для партызан зброю, боепрыпасы, харчы, адзенне, медыкаменты, звесткі аб фаш. агентах. Члены груп на рачным флоце і фанерным з-дзе пераправілі ў *партызанскую брыгаду імя В. М. Молатава* Пінскага злучэння 48 чал. з поўным узбраеннем, якія знаходзіліся на службе ў акупантаў. Падпольшчыкі з в. Казлякавічы наладзілі сакрэтную пераправу цераз р. Піну і дапамагалі падп. парт. органам і партызанам падтрымліваць сувязь з горадам. Па звестках падпольшчыкаў укр. партызаны злучэння В. А. Бегмы разбілі караван варожых суднаў, які рухаўся з Пінска ў Кіеў. Падпольшчыкі мармеладнай ф-кі саставілі падрабязны план горада, на які нанеслі ваен. аб'екты і ўстановы акупантаў. У партыз. брыгаду імя Молатава патрыёты даставілі друкарскі шрыфт, фарбу, паперу. С. А. Жарын вывез у атрад імя Лазо гэтай брыгады 2 падводы медыкаментаў і медабсталявання. А. І. Шахновіч вырабляў пячаткі, штампы гебітскамісарыята і гар. управы, бланкі дакументаў. У канцы 1943 у сувязі з пагрозай арышту падпольшчыкі пайшлі ў брыгады Пінскага партыз. злучэння ці да ўкр. партызан.

У барацьбе з ворагам загінулі А. В. Гарагляд, В. Паўлючэнка, Дз. П. Сініцкі, М. І. Стрыжко, І. Таранаў, С. А. Чалей, М. І. Якімуш і іншыя.

*Г. І. Трацдякова.*

**ПІНСКАЯ ВАЕ́ННАЯ ФЛАТЫ́ЛІЯ,** аператыўнае фарміраванне рачных баявых суднаў сав. ВМФ на рэках Прыпяць і Дняпро ў 1940—41. Сфарміравана ў чэрв. 1940 з часткі караблёў расфарміраванай *Дняпроўскай ваеннай флатыліі.* Галоўная база — Пінск, тылавая база — Кіеў.

У склад флатыліі ўваходзілі 27 караблёў, авіяэскадрылля, зенітны арт. дывізіён, рота марской пяхоты. У пач. вайны флатылія папоўнілася 18 караблямі і катэрамі. Дзейнічала на стыку Зах. і Паўд.-Зах. франтоў (Дняпроўска-Бугскі канал, Прыпяць). Да 11.7.1941 асн. сілы флатыліі зведзены ў 3 атрады: Бярэзінскі (дзейнічаў на р. Бярэзіна ў складзе Зах. фронту, узаемадзейнічаў з часцямі 21-й арміі), Прыпяцкі (дзейнічаў на Прыпяці, узаемадзейнічаў з часцямі 4-й і 5-й армій Зах. фронту) і Дняпроўскі (дзейнічаў на Дняпры, узаемадзейнічаў з часцямі 26-й і 38-й армій Паўд.-Зах. фронту).

Маракі флатыліі ўдзельнічалі ў абароне Пінска, Лунінца, Турава, Бабруйска, Гомеля. Пасля флатылія ўзаемадзейнічала з войскамі Паўд.-Зах. фронту (да 18.9.1941), садзейнічала працягламу ўтрыманню перапраў цераз Дняпро і стварэнню абароны сав. войскамі на левым беразе Дняпра, у жн.— вер. 1941 удзельнічала ў абароне Кіева. Большасць караблёў знішчана ў баях. Да канца выканаўшы задачу, маракі ў вер. 1941 падарвалі ўцалелыя караблі. Расфарміравана 5.10.1941. Камандуючы — контр-адмірал Дз. Дз. Рагачоў.

*М. І. Камінскі.*

**ПІ́НСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ АБКО́М КП(б)Б.** Створаны *Цэнтральным Камітэтам КП(б)Б* і працаваў пад яго кіраўніцтвам з канца ліп. да 30.9.1941 і з 25.8.1942 да ліп. 1944. Дзейнічаў на тэр. Пінскай вобл. Стварыў і кіраваў *Пінскім падпольным гаркомам КП(б)Б* і 11 райкомамі [гл. *Раённыя падпольныя камітэты КП(б)Б*], якія аб'ядноўвалі 56 пярвічных парт. арг-цый, 1026 камуністаў у партыз. фарміраваннях. 3 падп. райкомы выдавалі газеты (гл. *Друк падпольны*). Накіроўваў дзейнасць *Пінскага падпольнага абкома ЛКСМБ.* Арганізоўваў і ўзначальваў парт. падполле, у т. л. Пінскае і Столінскае (гл. адпаведныя артыкулы), інш. арг-цыі і групы парт.-патрыятычнага і камсам.-маладзёжнага падполля, партыз. рух, барацьбу насельніцтва супраць ням.-фаш. захопнікаў на тэр. Пінскай вобл. Аб'яднаў асобныя партыз. атрады і групы ў *Пінскае партызанскае злучэнне* і ўзначаліў яго дзейнасць. Сакратары абкома: П. Г. *Шапавалаў* (да 30.9.1941, загінуў), М. К. Зайцаў (да вер. 1941), А. Я. *Кляшчоў* (23.4 — кастр. 1943, 1-ы сакратар), С. Р. *Вайцахові*ч (з 23.4.1943, 2-і сакратар); члены: І. Л. Масленікаў (да 30.9.1941, загінуў), Кляшчоў (да 30.9.1941 і з 25.8.1942 да кастр. 1943), В. З. *Корж* (з 25.8.1942), Ф. І. *Палажэнцаў* (23.4.1943—3.3.1944), Г. П. Сцешыц (з 9.11.1943). Друкаваны орган — газ. *«Палеская праўда»*; выдаваў лістоўкі, бюлетэні, адозвы, зводкі Саўінфармбюро. Базіраваўся ў *партызанскім атрадзе Столінскім*, потым у Пінскім партыз. злучэнні.

У гонар падп. абкома, штаба партыз. злучэння Пінскай вобл. ва ўрочышчы Векерава каля в. Груздава Салігорскага р-на ў 1963 пастаўлена стэла.

*Р. Ф. Пепяляева.*

**ПІ́НСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ АБКО́М ЛКСМБ.** Створаны *Цэнтральным Камітэтам ЛКСМБ* для падп. работы з ліп. 1941 у паўн. частцы, з восені 1942 — ва ўсіх раёнах Пінскай вобл. Дзейнічаў з 8.7.1941 да 14.7.1944 пад кіраўніцтвам ЦК ЛКСМБ і *Пінскага падпольнага абкома КП(б)Б.* Узначальваў дзейнасць *Пінскага падпольнага гаркома ЛКСМБ,* 11 райкомаў (гл. ў арт. *Раённыя падпольныя камітэты ЛКСМБ*). 185 тэрытарыяльных, 75 пярвічных камсам. арг-цый партыз. фарміраванняў, усяго каля 3,5 тыс. камсамольцаў. Сакратары: Ш. І. *Бярковіч* (да 31.12.1942, загінуў), Э. Б. *Нордман* (1.1 — 3.6.1943, нам. сакратара 8.7.1941 — 31.12.1942), П. А. *Емяльянцаў* (з 3.6.1943), А. А. *Бірукоў* (з 2.8.1943, 1-ы сакратар); члены: Нордман, М. П. Забела (вер. 1942 — 1.7.1943; упаўнаважаны ЦК ЛКСМБ па Пінскай вобл.), В. М. Ліфанцьеў (14.7.1941—2.8.1943), І. А. Буйніцкі (14.7 — жн. 1941, загінуў), І. І. Чуклай (да 3.9.1942, загінуў), М. І. Бубянкоў (20.4—2.8.1943), А. І. Кавалёў, А. І. Кубасаў (абодва з 2.3.1943). Дзейнасць абкома з кастр. 1942 накіроўваў сакратар ЦК ЛКСМБ К. Т. *Мазураў*, які быў у варожым тыле; на тэр. вобласці ў 1943 працавалі інструктары ЦК ВЛКСМ Ф. П. Ісайчанкаў, ЦК ЛКСМБ М. І. Сіманаў, упаўнаважаны ЦК ВЛКСМ І. В. Мілюкоў. Базіраваўся ў Ленінскім р-не пры партыз. атрадзе В. З. *Каржа* (гл. ў арт. *Партызанская брыгада імя С. М. Будзённага*) і пры штабе Пінскага партыз. злучэння.

*Р. М. Шавяла.*

**ПІ́НСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ ГАРКО́М КП(б)Б.** Створаны *Пінскім падпольным абкомам КП(б)Б* і дзейнічаў пад яго кіраўніцтвам з 1.9.1943 да 30.3.1944. Сакратар Ф. І. *Палажэнцаў*, член Г. А. Бяляеў (з 15.10.1943). Базіраваўся ў атрадзе імя У. Р. Нямытава *партызанскай брыгады Пінскай.* У сак. 1944 брыгада злучылася з Чырв. Арміяй, разам з ёй выйшаў у сав. тыл і гарком.

*Р. Ф. Пепяляева.*

**ПІ́НСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ ГАРКО́М ЛКСМБ.** Створаны Пінскім абкомам ЛКСМБ. Дзейнічаў з 8.7.1941 да 30.3.1944 пад кіраўніцтвам *Пінскага падпольнага абкома ЛКСМБ* і *Пінскага падпольнага гаркома КП(б)Б* (з 1.9.1943). Кіраваў камсам.-маладзёжным падполлем г. Пінска. Сакратары: Ш. І. *Бярковіч* (14.7.1941—31.12.1942, загінуў), Э. Б. *Нордман* (14.7.1941—1.7.1943), М. І. Бубянкоў (з 1.7.1943), К. Р. Дзяканчук (з 1.10.1943, сакратар па прапагандзе); члены: Бубянкоў (з 1.8.1942), А. Е. Каваленка (з 1.7.1943). Базіраваўся ў Ленінскім р-не пры партыз. атрадзе В. З. *Каржа* (гл. ў арт. *Партызанская брыгада імя С. М. Будзённага*), пры штабе *Пінскага партызанскага злучэння* і ў *партызанскай брыгадзе Пінскай.*

*Р. М. Шавяла.*

**ПІ́НСКІЯ ВАЙСКО́ВЫЯ ЗЛУЧЭ́ННІ І ЧА́СЦІ.** За вызваленне г. Пінска (5.7.1944) у час наступлення на баранавіцка-брэсцкім напрамку ганаровыя найменні «Пінскіх» паводле загада ВГК ад 23.7.1944 атрымалі 18 злучэнняў і часцей 61-й арміі і *Дняпроўскай ваеннай флатыліі* 1-га Бел. фронту.

Часці і злучэнні, якім нададзены ганаровыя найменні «Пінскіх»: 12-я (ген.-маёр Дз. К. *Малькоў*) і 55-я (ген.-маёр А. П. Турчынскі) гвардз. стралк. дывізіі, 38-я інж.-сапёрная брыгада (палк. А. М. Паўшук), 228-ы (падпалк. Г. Я. Каламацкі), 446-ы (палк. М. М. Голубеў), 447-ы (падпалк. А. Ц. Макараў), 1323-і (маёр Г. А. Малчанаў) і 1326-ы (маёр М. П. Клешчын) стралк. палкі, 211-ы арт. полк (маёр П. А. Варко), 547-ы армейскі мінамётны полк (падпалк. П. П. Іваноў), 106-ы асобны полк сувязі (падпалк. П. Я. Пазнякоў), 233-і інж.-сапёрны батальён (маёр Р. С. Казлоў), 421-ы асобны лінейны батальён сувязі (маёр К. Л. Корсун), 437-ы асобны радыёдывізіён (падпалк. А. С. Каленцаў), 1-ы асобны гвардз. дывізіён бранякатэраў (капітан-лейт. І. П. Міхайлаў), 3-і дывізіён катэраў-тральшчыкаў (капітан-лейт. А. К. Сялянкін), 4-ы дывізіён катэраў-тральшчыкаў (капітан-лейт. М. М. Лупачоў), 390-я асобная тэлеграфна-будаўнічая рота сувязі (капітан Г. П.

Анісіфараў). Войскам, якія ўдзельнічалі ў баях за вызваленне Пінска, загадам ВГК ад 14.7.1944 абвешчана падзяка, у Маскве дадзены салют 20 арт. залпамі з 224 гармат. *М. І. Камінскі.*

**ПІНЧУ́К** Андрэй Міхайлавіч (27.7.1913, в. Рассвет Акцябрскага р-на — 24.12.1944), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1940. З чэрв. 1941 на Зах., Паўд.-Зах., Паўд., Варонежскім, 2-м Укр. франтах. Камандзір танк. батальёна маёр П. вызначыўся ў баях на тэр. Румыніі і Венгрыі. 20.8.1944 каля г. Ясы яго батальён прарваў абарону праціўніка і адкрыў дарогу для наступлення 6-й танк. арміі. П. правёў танкі батальёна праз Паўд. Карпаты, 5.12.1944 удзельнічаў у прарыве абароны ворага на ПнУ ад Будапешта і адзін з першых дасягнуў Дуная. Батальён пад яго камандаваннем знішчыў 8 танкаў, 77 гармат, 195 кулямётаў, 64 мінамёты. Загінуў у баі. Пахаваны ў г. Балта Адэскай вобл. Яго імем названа вуліца на радзіме.



П. А. Пілютаў. А. М. Пінчук. М. Р. Пінчук. Р. С. Пінчук. Г. І. Пісараў. А. Я. Пісарэнка.

**ПІНЧУ́К** Мікалай Рыгоравіч (4.2.1921, в. Будзёнаўка, Бабруйскі р-н — 12.1.1978), Герой Сав. Саюза (1945). Засл. ваен. лётчык СССР (1969). Чл. КПСС з 1945. Скончыў Ваен.-паветр. акадэмію (1954). З 1942 на Зах. і 3-м Бел. франтах. Удзельнік вызвалення Смаленшчыны, Беларусі, баёў ва Усх. Прусіі. Камандзір знішчальнай эскадрыллі маёр П. за час вайны зрабіў 307 баявых вылетаў, удзельнічаў у 68 паветр. баях, асабіста збіў 22 варожыя самалёты (адзін з іх тараніў 30.8.1943 у раёне Ельні), 2 — у групавых баях. Да 1975 у Сав. Арміі, палкоўнік. Аўтар кн. «У паветры — Які» (1977).

**ПІНЧУ́К** Рыгор Сяргеевіч (24.1.1912, г. п. Лоеў — 14.5.1944), Герой Сав. Саюза (1940). Чл. КПСС з 1939. Скончыў Ваенна-марскую акадэмію (1942). Вызначыўся ў сав.-фінл. вайну 1939—40. Ст. лётчык лейтэнант П. 2.2.1940 у час бамбардзіроўкі ваен. аб'ектаў праціўніка быў атакаваны варожымі знішчальнікамі, адзін з іх збіў. Сваю ахопленую полымем машыну пасадзіў у тыле ворага і вывеў экіпаж за лінію фронту. У Айч. вайну на фронце з чэрв. 1941. Загінуў пры выкананні баявога задання. Пахаваны ў Кранштаце на алеі Герояў. Яго імем названа вуліца ў Лоеве, на доме, дзе ён нарадзіўся, мемар. дошка.

**ПІНЯ́ЗІК** Міхаіл Лявонавіч (1915, в. Забалацце Пухавіцкага р-на — 1.10.1964), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсам.-маладзёжнага падполля і партыз. руху ў Палескай вобл. Чл. КПСС з 1939. Скончыў ВПШ пры ЦК ВКП(б) (1949). З 1941 1-ы сакратар Палескага абкома ЛКСМБ, інструктар ЦК ВЛКСМ. У 1942—43 кіраўнік аператыўнай групы ў прыфрантавой палосе, упаўнаважаны ЦК ЛКСМБ, пам. упаўнаважанага ЦК КП(б)Б па Палескай вобл. З 9.2.1943 да 27.5.1944 сакратар *Палескага падпольнага абкома ЛКСМБ*, у крас.— кастр. 1943 чл. *Палескага падпольнага абкома КП(б)Б*. З 1944 заг. аддзелаў Палескага, Магілёўскага абкомаў, з 1952 1-ы сакратар Магілёўскага гаркома КПБ, потым дырэктар Магілёўскай саўпартшколы.

**ПІСАРА́Ў** Георгій Іванавіч (23.3.1919, с. Ермалаеўка Убінскага р-на Новасібірскай вобл.— 12.9.1981), Герой Сав. Саюза (1945), ген.-маёр (1965). Чл. КПСС з 1941. Беларус. Скончыў Томскую саўпартшколу (1938), Іванаўскае ваен. вучылішча (1941), Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1953). У Айч. вайну з 1941 на Бранскім, Варонежскім, Сталінградскім, Данскім, 4-м Укр., 1-м і 2-м Прыбалт. франтах. Удзельнік Сталінградскай, Курскай бітваў, вызвалення Крыма, Прыбалтыкі. Камандзір мотастралк. батальёна маёр П. вызначыўся ў кастр. 1944 у час прарыву варожай абароны на р. Вірвітэ і авалодання г. Седа Літоўскай ССР. Батальён пад яго камандаваннем фарсіраваў раку, знішчыў групу гітлераўцаў, захапіў мост, 15 гармат, 17 кулямётаў, 15 бронетранспарцёраў, 150 аўтамашын. Да 1976 П. у Сав. Арміі.

**ПІСАРЭ́НКА** Андрэй Яфрэмавіч (3.6.1908, Пецярбург — 24.2.1966), Герой Сав. Саюза (1943). Беларус. У 1932 — 35 у органах НКУС БССР. З чэрв. 1941 на Зах., Бранскім і Цэнтр. франтах. Камандзір стралк. роты лейтэнант П. вызначыўся пры вызваленні Кіеўскай вобл. 28.9.1943 у баі каля в. Роцічы Чарнобыльскага р-на роту П. атакавалі варожая пяхота і танкі. Гусеніцай танка П. раструшчыла руку, але ён працягваў кідаць гранаты другой, пакуль ад выбуху варожага снарада не страціў зрок. Натхнёная мужнасцю камандзіра рота адбіла варожую атаку. Пасля вайны жыў у Полацку.

**ПІШЧЫКЕ́ВІЧ** Барыс Тарасавіч (5.8.1899, в. Сасноўка Слонімскага р-на — 15.1.1974), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1921. Скончыў Ін-т чырв. прафесуры (1936). Удзельнік грамадз. вайны, вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. На фронце з чэрв. 1941. Удзельнік вызвалення Беларусі, баёў у Германіі. Агітатар палітаддзела дывізіі маёр П. вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра ў Лоеўскім р-не. 15.10.1943 з дэсантам батальёна пераправіўся цераз раку, замяніў камандзіра, які выбыў са строю. Дэсантнікі выбілі праціўніка з траншэй, адбілі 5 варожых контратак і далі палку магчымасць фарсіраваць раку. Пасля вайны да 1957 на прафс. рабоце. Імем П. названа Сасноўская сярэдняя школа, на будынку школы мемар. дошка.

**ПІЯНЕ́РЫ БЕЛАРУ́СІ — ГЕРО́І** Вялікай Айчыннай вайны, юныя патрыёты (выхаванцы вайсковых часцей, падпольшчыкі, партызаны), якія разам з дарослымі змагаліся супраць ням.-фаш. захопнікаў. Першыя піянеры-героі — удзельнікі абароны Брэсцкай крэпасці: Валя Зенкіна, Валодзя Ізмайлаў, Пеця Кацельнікаў, Нюра Кіжаватава, Коля Новікаў, Люда Несцярчук, Валодзя Кузьмін і інш. Яны змагаліся са зброяй у руках, падносілі боепрыпасы, здабывалі пітную ваду, даглядалі параненых і дзяцей. Сярод піянераў-герояў шмат сыноў і дачок палкоў, узнаг. ордэнамі і медалямі СССР: Жора Арцеменкаў, Валя Дончык, Юра Жданко, Саша Котаў, Оля Лазоўская, Ваня Стасевіч, Гена Юшкевіч і інш. Піянеры —

удзельнікі парт.-патрыятычнага і камсам.-маладзёжнага падполля вялі разведку, збіралі зброю, медыкаменты, распаўсюджвалі лістоўкі, памагалі ўчыняць дыверсіі, вызваляць з канцлагераў ваеннапалонных. Гэта Валодзя Борсук, Люда Вашкевіч, Маня Галафаева, Люся Герасіменка, Марат Гурло, Ваня Ерафееў, Пеця



Б. Т. Пішчыкевіч. І. А. Плііеў.

Каліноўскі, Віця Пашкевіч, Коля Сарока, Ніна Хамко, Валодзя Шчарбацэвіч і інш. Больш за 5,5 тыс. піянераў змагаліся ў партыз. атрадах, былі разведчыкамі, падрыўнікамі, сувязнымі. Сярод іх Героі Сав. Саюза Марат *Казей* і Зіна *Партнова*, а таксама Ціхан Баран, Ваня Грынкевіч, Антон Губараў, Ліда Дземеш, Гена Занько, Пеця Каваленка, Валя Кавалёў, Марат Казлоў, Федзя Клімовіч, Грыша Падабедаў, Вася Платоненка, Віця *Сітніца*, Вася Стаброўскі, Пеця Шыцікаў і шмат іншых.

Многія з піянераў-герояў Беларусі аддалі жыццё за Радзіму і занесены ў Кнігу гонару піянерскай арг-цыі. Іх імёнамі названы школы, піянерскія дружыны, вуліцы, ім пастаўлены помнікі. Цеплаходам Далёкаўсх. параходства прысвоены імёны Марата Казея, Зіны Партновай, Віці Сітніцы, Дунайскага — Нюры Кіжаватавай, Камчацкага — Ліды Дземеш, Мурманскага — Валодзі Шчарбацэвіча.

*В. М. Марозаў.*

**«ПЛА́МЯ»,** газета, орган Бярозаўскага падп. РК КП(б)Б. Выдавалася пры *партызанскім атрадзе 345-м.* Вядома 15 нумароў за 21.1 — 10.7.1944 на рус. мове. Рэдактары А. С. Фацік, П. І. Братанаў (з 1.5.1944). З 1962 выходзіць пад наз. «Маяк коммунизма», орган Бярозаўскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**ПЛАСКО́Ў** Рыгор Давыдавіч (20.12. 1898, Мінск — 2.11.1972), ген.-лейт. артылерыі (1945). Чл. КПСС з 1919. З кастр. 1917 у Чырв. гвардыі, потым у Чырв. Арміі. Удзельнік грамадз., сав.-фінл. 1939—40 войнаў. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1932). З 1941 на Зах., Калінінскім, 2-м Укр., 1-м Бел. франтах — камандуючы артылерыі дывізіі, корпуса, арміі. Да 1956 у Сав. Арміі.

**ПЛЕ́ШЧАНІЦКАЕ КАМСАМО́ЛЬСКА-МАЛАДЗЁЖНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з 18.8.1941 да 25.11.1942 у г. п. Плешчаніцы. Налічвала 23 чал. Кіраўнік П. І. Адамовіч. З вясны 1942 трымала сувязь з партыз. атрадам «Барацьба» (з вер. 1942 у *партызанскай брыгадзе «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага).* З жн. 1942 работу арг-цыі накіроўваў *Барысаўскі падпольны міжрайком ЛКСМБ.* Падпольшчыкі дзейнічалі групамі па 5 чал., іх узначальвалі М. І. Гусакоўская, В. І. Парфяновіч, М. І. Парфяновіч, К. Х. Чалаў.

Вялі паліт. агітацыю сярод насельніцтва, па радыё прымалі і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, здабывалі і перадавалі партызанам зброю, боеприпасы, медыкаменты. Летам 1942 па заданні камандавання партыз. атрада накіравалі на службу ва ўправу і паліцыю некалькі членаў арг-цыі, праз якіх атрымлівалі звесткі аб карных экспедыцыях, дакументы. У ліп. 1942 падпольшчыкі арганізавалі ўцёкі зняволеных з канцлагера, у канцы ліст. 1942 замініравалі будынак жандармерыі, падпалілі ўправу, падарвалі лесапільню. Пасля дыверсій большасць членаў арг-цыі пайшла ў партызаны.

Фашысты загубілі падпольшчыкаў Г. Н. Балахціну, С. А. Дудзінскую, З. Ф. Іваноўскую, М. Л. Пракаповіч, У. В. Чарняцова, С. І. Шлыкевіча.

*Ю. А. Капіца.*

**ПЛЕ́ШЧАНІЦКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1943,** бай партызанскіх брыгад «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага і «Дзядзькі Колі» (гл. адпаведныя артыкулы) супраць ням.-фаш. захопнікаў у г. п. Плешчаніцы ў сак.— жн. 1943.

Вясной 1943 партыз. разведка выявіла, што акупанты хуткімі тэмпамі пачалі весці інж. работы па абсталяванню сістэмы абаронных апорных пунктаў вакол і ўнутры Плешчаніц, з лета гарнізон (каля 230 гітлераўцаў) папоўніўся новымі падраздзяленнямі, у т. л. спец. падраздзяленнямі ням. ВПС, падвозіліся зброя, боеприпасы, харчаванне. Паводле ўказання Мінскага падп. абкома КП(б)Б камандаванне партыз. брыгады «Народныя мсціўцы» імя Варанянскага неаднаразова спрабавала перашкодзіць узмацненню Плешчаніцкага гарнізона. Партызаны нанеслі 29 удараў па аванпастах гарнізона, адбілі 23 яго вылазкі. Спыняліся спробы дэблакіраваць Плешчаніцкі гарнізон звонку. Былі знішчавы мотамеханіз. патруль 118-га ахоўнага батальёна, палкоўнік паліцыі бяспекі разам з аховай. Вял. страты былі нанесены асобаму батальёну СС Дырлевангера, які спрабаваў прарвацца на дапамогу акружанаму гарнізону.

17.8.1943 партызаны адначасова перакрылі ўсе шляхі, якія вялі ў Плешчаніцы і з некалькіх бакоў уварваліся ў пасёлак. У гэты час партыз. брыгада «Дзядзькі Колі» звязала баявымі дзеяннямі варожыя гарнізоны на зембінскім напрамку. Завязаліся вулічныя баі, у якіх вырашальную ролю адыгралі створаныя пры кожным атрадзе спец. баявыя групы. Яны ўмела наносілі ўдары па дзотах і бункерах праціўніка, закідвалі іх гранатамі. У начным баі нар. мсціўцы знішчылі каля 150 гітлераўцаў, усе гасп. і ваен. аб'екты гарнізона, у т. л. 10 дзотаў, захапілі шмат зброі, боеприпасаў, амуніцыі праціўніка і на досвітку 18 жн. адышлі ў раён сваёй дыслакацыі. Страты партызан склалі 48 байцоў забітымі і параненымі. Падмацаванне, якое выклікалі па радыё, знайшло ў Плешчаніцах некалькі ўцалелых гітлераўцаў. У выніку П. а. 1943 гарнізон у г. п. Плешчаніцы быў поўнасцю разгромлены, яго дзейнасць была спынена больш як на паўгода.

*У. С. Пасэ.*

**ПЛЕ́ШЧАНІЦЫ,** гар. пасёлак у Лагойскім р-не, цэнтр саўгаса «Плешчаніцкі». За 27 км на Пн ад Лагойска, за 60 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск — Орша, на перакрыжаванні аўтадарог Барысаў — Вілейка і Мінск — Полацк, на беразе Плешчаніцкага вадасховішча. Да 1962 цэнтр Плешчаніцкага р-на. 3,7 тыс. жыхароў у 1939. У канцы чэрв. 1941 у раёне П. супраць наступаўшых фаш. войск вялі баі часці 50-й стралк. дывізіі (ген.-маёр В. П. Еўдакімаў) 13-й арміі. Праціўніка ўдалося прыпыніць. Толькі дывізіён пад камандаваннем капітана В. В. Дабрасердава знішчыў 15 танкаў і бронетранспарцёраў ворага. Пад напорам намнога большых сіл праціўніка сав. воіны вымушаны былі адступіць да Барысава. 28.6.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія разбурылі пасёлак, у П. і раёне знішчылі 2063 чал. Дзейнічалі падп. Плешчаніцкія райкомы КП(б)Б (кастр. 1942 — 1.7.1944) і ЛКСМБ (21.11.1942—1.7.1944), партыз. брыгады «Дзядзькі Колі», «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага, «Смерць фашызму», 1-я Антыфашысцкая, імя Калініна (гл. адпаведныя артыкулы), *Плешчаніцкае камсамольска-маладзёжнае падполле;* выдавалася падп. газ. *«Ленінец».* Летам 1943 партыз. атрад «Мсцівец» правёў аперацыю «Фінансіст», у выніку якой з Плешчаніцкага банка было забрана 224 тыс. марак. У жн. 1943 партыз брыгада «Народныя мсціўцы» імя Варанянскага правяла *Плешчаніцкую аперацыю 1943.* П. вызвалены 30.6.1944 воінамі 35-й гвардз. танк. брыгады (ген.-маёр А. А. Асланаў) 3-га гвардз. механіз. корпуса 3-га Бел. фронту ва ўзаемадзеянні з партызанамі брыгад «Народныя мсціўцы» імя Варанянскага (Г. Ф. *Пакроўскі*) і імя Калініна (З. І. Ненахаў) у час правядзення *Мінскай аперацыі 1944.* У П. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі; мемар. дошка ахвярам фашызму.

*М. І. Камінскі.*

**ПЛІГАЎКІ,** вёска на тэр. Расонскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 8 км на ПдЗ ад в. Альбрэхтава Расонскага пасялковага Савета. Перад вайной у ёй жыло 66 чал. 12.2.1943, у час карнай аперацыі,

фашысты загубілі 32 жыхароў, у т. л. 9 дзяцей, вёску (17 двароў) спалілі, маёмасць разрабавалі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1965 на магіле ахвяр фашызму пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ПЛІЕЎ** Іса Аляксандравіч (25.11.1903, с. Стары Батакаюрт Паўн.-Асецінскай АССР — 6.2.1979), двойчы Герой Сав. Саюза (1944, 1945), ген. арміі (1962). Герой МНР (1971). Чл. КПСС з 1926. У Чырв. Арміі з 1922. Скончыў ваен. акадэміі імя Фрунзе (1933) і Генштаба (1941). Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. З чэрв. 1941 на Зах., Паўд., Паўд.-Зах., Сцяпным, 3-м Укр., 2-м Бел., 2-м Укр. і Забайкальскім франтах: камандзір кав. дывізіі, кав. карпусоў, конна-механіз. групы. Пад яго камандаваннем конна-механізаваная група ў час Бел. аперацыі 1944 удзельнічала ў вызваленні Глуска, Слуцка, Міра, Стоўбцаў, Нясвіжа, Баранавіч, Слоніма, Брэста. Пасля вайны на адказных пасадах у Сав. Арміі і Міністэрстве абароны СССР. Канд. у чл. ЦК КПСС у 1961—66. Дэп. ВС СССР у 1946—70. Яго імем названа вуліца ў Слуцку.

**ПЛІС** Міхаіл Ігнатавіч (11.9.1898, в. Бялавічы Івацэвіцкага р-на — 10.1.1958), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1919. Скончыў Ін-т чырв. прафесуры (1933). У 1918—21 у Чырв. Арміі, потым на парт. і гасп. рабоце ў РСФСР і УССР. З 1936 у апараце Камісіі парт. кантролю пры ЦК ВКП(б). З 1938 на выкладчыцкай, парт., гасп. і сав. рабоце. У крас. 1943 — ліп. 1944 сакратар *Віцебскага падпольнага абкома КП(б)Б*. З 1944 выкладчык у ВНУ Кіева.

**ПЛІ́СА,** вёска ў Глыбоцкім р-не, на беразе воз. Пліса, на р. Мнюта. За 21 км на ПнУ ад г. Глыбокае, за 10 км ад чыг. ст. Падсвілле, на аўтадарозе Глыбокае — Полацк. У 1940—44 цэнтр Пліскага р-на. У пач. ліп. 1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў П. і раёне 1676 чал. У П. і раёне дзейнічалі Пліскія падп. райкомы КП(б)Б (29.8. 1943—2.7.1944) і ЛКСМБ (15.12. 1942—2.7.1944), партыз. брыгады імя Леніна, імя Варашылава, імя ЦК КП(б)Б, імя А. Ф. Данукалава, імя С. М. Кароткіна, «Кастрычнік», 1-я імя Суворава, 1-я Антыфашысцкая (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«За свабоду»*. Вызвалена 2.7.1944 войскамі 43-й арміі (ген.-лейт. А. П. *Белабарадаў*), 1-га танк. корпуса (ген.-лейт. танк. войск В. В. Буткоў) 1-га Прыбалт. фронту ў ходзе *Полацкай аперацыі 1944*.

*Т. І. Павaліхіна.*

**ПЛО́ТКІ,** вёска на тэр. Віцебскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася ў Запольскім сельсавеце. Перад вайной у ёй жыло 176 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 25 жыхароў, вёску (35 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ПЛЯБА́НАВА,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на ПнУ ад в. Каханавічы. Перад вайной у ёй жылі 82 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»*, фашысты загубілі 11 жыхароў, вёску (14 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1975 на месцы спаленай вёскі насыпаны курган, пастаўлены абеліск.

**ПЛЯЦЫ,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1,5 км на Пн ад в. Росіца Бігосаўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 69 чал. 16.2.1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»*, фашысты загубілі 39 жыхароў, вёску (14 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1973 на месцы вёскі насыпаны курган, пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**«ПО СТА́ЛИНСКОМУ ПУТИ́»,** газета, заснавана ў 1931 пад наз. «Калгаснік на варце». У час ням.-фаш. акупацыі орган Лельчыцкага падп. РК КП(б)Б. Вядома 9 нумароў за 29.9.1943—1.1.1944 на бел. і рус. мовах. № 1—4 за 29.9—27.10.1943 выйшлі пад наз. «Па сталінскаму шляху». Рэдактар М. М. Таргонскі. Пасля вызвалення выдавалася пад наз. «Па сталінскаму шляху», з 1956 «Савецкае Палессе», з 1965 «Светлае жыццё», орган Лельчыцкага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**ПО́ЛАЗАЎ** Канстанцін Мікалаевіч (22. 6.1914, Віцебск — 10.9.1977), Герой Сав. Саюза (1945). Скончыў курсы мал. лейтэнантаў (1936). З 1941 на Цэнтр., Сцяпным і 1-м Укр. франтах. Удзельнік Львоўска-Сандамірскай, Берлінскай і Пражскай аперацый. Камандзір роты аўтаматчыкаў механіз. брыгады ст. лейтэнант П. вызначыўся ў жн. 1944 у баях за г. Самбар Львоўскай вобл. Рота на чале з П. уварвалася ў горад і вяла бой з ворагам да падыходу асн. сіл брыгады. Да 1969 працаваў у калгасе.

**ПО́ЛАЦК,** горад, цэнтр Полацкага р-на, на р. Зах. Дзвіна пры ўпадзенні ў яе р. Палата. За 105 км на ПнЗ ад Віцебска, вузел чыгунак і аўтамабільных дарог. У 1939 — 29,6 тыс. жыхароў. На Полацкім напрамку наступала 3-я ням. танк. група ген. Гота, якая да 4.7.1941 дасягнула рубяжа Лепель — Ула — Полацк. Да 1 ліп. ў горадзе быў сфарміраваны знішчальны батальён (камандзір Д. П. Ражкоў), рэарганізаваны 4 ліп. ў атрад унутранай абароны (камандзір С. П. Партноў, камісар Н. А. Новікаў). П. аказаўся ў палосе, што вызначыла Стаўка Галоўнакамандавання для разгортвання сіл Чырв. Арміі з мэтай стабілізацыі фронту. Полацкі УР стаў адным з апорных пунктаў асн. рубяжа стратэгічнай абароны, якая аднаўлялася на Зах. фронце. Больш за 3 тыдні стрымлівалі праціўніка воіны 174-й стралк. дывізіі (камбрыг А. І. Зыгін) 62-га стралк. корпуса 22-й арміі, гарнізон Полацкага УР, часці і падраздзяленні Чырв. Арміі, што прыбывалі сюды пасля выхаду з акружэння, пад агульным камандаваннем Зыгіна (гл. *Полацка абарона 1941*). 16.7. 1941 горад акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія стварылі тут 3 лагеры смерці. Толькі ў лагеры для сав. ваеннапалонных зімою 1941—42 яны знішчылі каля 40 тыс. чал., у лагеры для грамадзянскага насельніцтва — больш за 15 тыс. чал. Усяго за час акупацыі ў горадзе і раёне забіта 300 тыс. чал.; у П. разбураны ўсе прамысловыя прадпрыемствы, 96% жылога фонду. У горадзе і раёне дзейнічалі *Полацкае партыйна-камсамольскае падполле*, Полацкія падп. райкомы КП(б)Б (6.6.1942—15.11. 1943) і ЛКСМБ (26.5.1942—1.12. 1943), партыз. брыгады 3-я Беларуская, імя С. М. Кароткіна, імя Ракасоўскага, імя Чапаева, Расонская імя Сталіна, А. М. Крыўскага, «Няўлоўныя», асобныя атрады «Баявы», «Трэція» (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«Бальшавіцкі шлях»*. З восені 1942 частка тэр. Полацкага р-на ўваходзіла ў *Расонска-Асвейскую партызанскую зону*. Вызвалены 4.7.1944 воінамі 332-й (палк. Ц. Ф. Егошын), 119-й (ген.-маёр І. І. Харун), 360-й (ген.-маёр І. І. Чынноў) стралк. дывізій 83-га стралк. корпуса, 138-й гарматнай арт. брыгады (палк. В. А. Лебедзеў), 2-й інж.-сапёрнай брыгады (палк. М. В. Сакалоў) 4-й ударнай арміі, 51-й (ген.-маёр В. С. Чэрнікаў), 71-й (ген.-маёр І. П. Сівакоў) гвардз. стралк. дывізій 23-га гвардз. стралк. корпуса, 143-й танк. брыгады (палк. А. С. Падкоўскі), 333-га гвардз. цяжкага самаходнага арт. палка (маёр П. М. Бясшчотнаў), 2-га асобнага гвардз. цяжкага танк. палка (падпалк. А. П. Пахарукаў), 335-й гвардз. цяжкага самаходнага арт. палка (палк. І. І. Дусь), 26-й (палк. Г. І. Капітоненка), 27-й (палк. М. А. Заўялаў) гвардз.



К. М. Полазаў.

гарматных арт. брыгад 8-й гарматнай арт. дывізіі, 103-й гаўбічнай арт. брыгады вял. магутнасці (палк. П. І. Чайкоўскі) 21-й арт. дывізіі прарыву, 45-й асобнай знішчальна-процітанк. арт. брыгады (падпалк. А. М. Цяплінскі), 51-й стралк. дывізіі (ген.-маёр А. Я. Хвастоў), 90-й гвардз. стралк. дывізіі (ген.-маёр В. Я. Уласаў), 47-й стралк. дывізіі (палк. П. В. Чарнавус) 22-га гвардз. стралк. корпуса 6-й гвардз. арміі пры падтрымцы сіл 3-й паветр. арміі і авіяцыі далёкага дзеяння 1-га Прыбалт. фронту ў ходзе *Полацкай аперацыі 1944*. 31 воінскай часці і злучэнню, якія вызначыліся пры вызваленні П., нададзены ганаровыя найменні «Полацкіх» (гл. *Полацкія вайсковыя злучэнні і часці*). У П. брацкія магілы сав. воінаў, на якіх пастаўлены помнікі; курган Бессмяротнасці; помнікі воінам-гвардзейцам, Вызвалення, воінам 1-га Прыбалт. фронту, сав. ваеннапалонным і ахвярам фашызму, настаўнікам і вучням СШ № 12, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, Героям Сав. Саюза І. К. *Айтыкаву*, І. Е. *Аляксееву*, А. К. *Гараўцу*, Т. С. *Марыненка*, мемар. дошкі Аляксееву і Марыненка. Працуе *Полацкі музей баявой славы*.

*Л. В. Календа.*

**ПО́ЛАЦКА АБАРО́НА 1941.** Вялася 27.6—15.7.1941 часцямі 22-й арміі (ген.-лейт. Ф. А. Ершакоў) Зах. фронту. Рубеж Дзісна — Ула, уключаючы доты Полацкага ўмацаванага раёна, абараняла 174-я стралк. дывізія (камбрыг А. І. Зыгін) 62-га стралк. корпуса. Полацкі УР разам з Себежскім, рэкамі Зах. Дзвіна і Дняпро ўвайшоў у палосу стратэгічнай абароны, што аднаўляла Стаўка Галоўнакамандавання на зах. напрамку (участак Зах. Дзвіны ад Полацка да Віцебска, праз Оршу па Дняпры да Рэчыцы). З набліжэннем фронту парт. і сав. органы Полацка пачалі мабілізацыю сіл на абарону горада: тысячы палачан капалі траншэі, будавалі абарончыя ўмацаванні. Быў сфарміраваны знішчальны батальён (пазней атрад унутр. абароны) для аховы прамысловых аб'ектаў, чыгункі, мастоў цераз Зах. Дзвіну і Палату. На далёкіх подступах да Полацка ворага стрымлівалі часці, што адыходзілі з ПнЗ у полацкім напрамку: 50-й стралк. дывізіі, разрозненыя часці 11-й арміі. 27.6.1941 ням.-фаш. авангард — механізаваная калона, якая спрабавала захапіць масты цераз Зах. Дзвіну каля Полацка — быў знішчаны ў раёне в. Кутняны воінамі 390-га гаўбічнага арт. палка (маёр. Р. К. Колакалаў). 29.6.1941 ваен. савет 22-й арміі прызначыў нач. Полацкага баявога ўчастка Зыгіна. Загадам № 1 Зыгін падпарадкаваў 5 нанава сфарміраваных кулямётных батальёнаў, гарнізон Полацкага УР, часці, якія прыбылі з зах. раёнаў пасля выхаду з акружэння і размешчаныя ў палосе абароны 174-й стралк. дывізіі. Пярэдні край абароны быў умацаваны процітанк. збудаваннямі. Паўд.-зах. і паўд. ўчасткі Полацка абаранялі палкі 494-ы (падпалк. І. Т. Кітаеў), 508-ы (палк. Т. П. Міларадаў) і 628-ы (падпалк. Г. В. Паўлюк), горад абаранялі таксама 50-ы стралк. полк (палк. В. П. Чупрын), 2 зводныя батальёны 17-й стралк. дывізіі (капітан Калгашкін). 29 чэрв. пачаліся жорсткія баі з праціўнікам, які спрабаваў авалодаць Полацкам, з 3 ліп. Полацк падвяргаўся масіраваным бамбардзіроўкам. Злучэнні 22-й арміі контратакавалі танк. групу Гота, 474-ы стралк. полк 174-й стралк. дывізіі 3 ліп. атакаваў галоўныя калоны праціўніка, якія ішлі да Полацка па дарогах Полацк — Даўгаўпілс і Полацк — Маладзечна, і затрымалі іх прасоўванне. 6 ліп. часці 174-й стралк. дывізіі рашучай контратакай адкінулі на паўд. бераг Зах. Дзвіны часці 3-й танк. групы Гота, якія захапілі 4 ліп. плацдарм каля Дзісны, была знішчана вял. колькасць танкаў, інш. тэхнікі, жорсткія баі тут ішлі некалькі дзён. Супраць 6 дывізій 22-й арміі ў палосе 260 км гітлераўцы сканцэнтравалі 16 дывізій, у т. л. ў раёне Дзісны 5 дывізій, групоўку войск на Пд ад Полацка. 7—9 ліп. абарона сав. часцей месцамі была прарвана, асноўныя ўдары праціўнік перанёс у абыход Полацкага УР, фарсіраваў Зах. Дзвіну. Жорсткія баі разгарнуліся на флангах 174-й і суседніх дывізій у раёнах Боркавічы, Баравуха 1-я супраць ням. 57-га і ў раёнах Улы, Сіроціна — 39-га матарызаваных карпусоў. Сав. воіны не раз пераходзілі ў контратакі. Трывала ўтрымлівалі свае пазіцыі часці 174-й стралк. дывізіі і гарнізон Полацкага УР. Утрыманне працяглы час Полацкага УР стварыла сур'ёзную пагрозу флангам груп армій «Поўнач» і «Цэнтр». Камандаванне ням. сухапутных войск вырашыла ліквідаваць гэтую пагрозу. 9 ліп. гітлераўскія войскі падышлі да рубяжа Зах. Дзвіна і Дняпро на лінію Полацк — Жлобін. На подступах да Полацка завязаліся жорсткія баі. 12 ліп. з мэтай разгрому часцей 22-й арміі праціўнік абрушыў удар сіламі 16 дывізій. Разам з часцямі Чырв. Арміі ў баях за горад мужна змагаліся ўзводы атрада ўнутранай абароны. Гарнізон Полацкага УР нанёс контрудар у фланг ням. 57-га матарыз. корпуса і затрымаў прасоўванне 18-й матарыз. дывізіі. Аднак, маючы перавагу ў сілах і сродках, гітлераўцы прарвалі абарону сав. войск, стварылася пагроза знішчэння полацкага гарнізона. У ноч на 16 ліп. паводле загаду камандуючага 22-й арміяй камбрыг Зыгін пачаў з баямі выводзіць дывізію з акружэння. 20 ліп. яна прарвала акружэнне, зверагла асабовы склад і тэхніку. У сваіх мемуарах ген. Гот назваў Полацк крэпасцю і адзначаў, што ў Полацку знаходзіўся здольны кіраўнік. Баі ў Полацкім УР ішлі да 19.7.1941, абарона Полацка затрымала прасоўванне гітлераўцаў на У больш як на 2 тыдні і зрабіла значны ўклад у зрыў гітлераўскага плана «маланкавай вайны».

*У. І. Ліхачоў, Л. В. Календа.*

**ПО́ЛАЦКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з жн. 1941 да кастр. 1942 у Полацку і Полацкім р-не пад кіраўніцтвам *Віцебскага падпольнага абкома КП(б)Б* (з сак. 1942) і Полацкага падп. РК КП(б)Б (з чэрв. 1942). Аб'ядноўвала 11 груп, каля 160 падпольшчыкаў. Першыя падп. групы ў Полацку ўзначалілі Я. Х. Сташкевіч, П. Ф. Самародкаў, С. В. Сухавей, падп. групы ў вёсках Домнікі — А. М. Філіпаў, Дрэтунь — М. Д. Свірыдзенка, Залессе — К. М. Макараў, Казімірова — Ф. Дз. Максімаў, Палата — П. Ф. Сташкевіч, Труды — А. Я. *Марчанка*, Узніцы — П. Я. Кірыленка, Юравічы — Дз. А. Зублеў. Вясной 1942 група Самародкава разгромлена фашыстамі, многія падпольшчыкі Полацка пайшлі да партызан. Групу патрыётаў, якія засталіся ў горадзе, з мая да кастр. 1942 узначальваў С. Я. Арцем'еў.

Падпольшчыкі вялі паліт. агітацыю сярод насельніцтва, распаўсюджвалі лістоўкі, здабывалі зброю і боепрыпасы, звесткі аб перадыслакацыі і перавозках варожых войск, ратавалі сав. ваеннапалонных, перапраўлялі людзей у партызаны, арганізоўвалі партыз. групы. У маі 1942 удзельнічалі ў стварэнні атрада (камандзір Марчанка), які разгарнуўся ў чэрв. ў *партызанскую брыгаду 3-ю Беларускую*. У ліст. 1941 на чыг. ст. Гараны знішчылі 2 паравозы і 4 вагоны. Вясной 1942, выкарыстоўваючы звесткі падпольшчыкаў, сав. авіяцыя бамбіла варожыя эшалоны на Полацкім чыг. вузле, партызаны разграмілі карнікаў у раёне былога саўгаса «Палата». Летам 1942 падарвалі на чыг. ст. Грамы нафтабазу, у кастр.— паравознае дэпо.

У барацьбе з ворагам загінулі: П. Абаленцаў, М. Аляксееў, Р. Атрошчанка. Ф. К. Безер, Я. Ф. Багатыроў, У. К. Говараў, М. С. і Ю. Я. Журавы, М. М. Іваноў, Л. П. Касецкая, Дз. І. Котаў, А. З. Круглікаў, К. М. Макараў, М. А. Мікешка, Г. Дз. Міндалёў, Г. П. Нікіціна, А. Пашкевіч, Дз. Б. Пятроўскі, П. Ф. Самародкаў, Я. Х. Сташкевіч, С. В. Сухавей, К. Г. Ткачова, Н. М. Філіпава, М. Я. Чувахоў.

*А. Б. Рогаў.*

**ПО́ЛАЦКА-ЛЕ́ПЕЛЬСКАЯ БІ́ТВА 1944** (абарона Полацка-Лепельскай партызанскай зоны), баі партыз. брыгад Полацка-Лепельскай зоны супраць карнай экспедыцыі ням.-фаш. войск у крас.— маі 1944.

Увосень 1942 у выніку баявых дзеянняў партыз. брыгад ад ням.-фаш. аку-

пантаў вызвалена значная тэрыторыя, утворана найбольшая на Беларусі *Полацка-Лепельская партызанская зона*, якую з восені 1943 абаранялі 16 партыз. брыгад. 3 снежня 1943 кіраўніцтва і каардынацыю іх дзейнняў ажыццяўляла аператыўная група ЦК КП(б)Б і БШПР. У штаб групы (размяшчаўся ў Ушачах) уваходзілі У. Е. *Лабанок* (кіраўнік), А. І. Бруханаў (да лют. 1944), А. Ф. Бардадын, І. І. Зіненка, Дз. А. Фралоў. Аператыўная група мела сталую сувязь з 1-м Прыбалт. фронтам праз прадстаўніка БШПР сакратара ЦК КП(б)Б І. І. *Рыжыкава* і з партыз. злучэннямі суседніх зон. У канцы снеж. 1943 фронт наблізіўся да паўн. граніц зоны. Вораг вырашыў адцясніць партызан ад дарогі Віцебск — Лепель — Параф'янава, якая звязвала 3-ю ням. танк. армію з тылам. У снеж. 1943 — лютым 1944 гітлераўцы 5 разоў спрабавалі прарваць абарону, але партызаны адбілі атакі, разграмілі больш за 30 варожых гарнізонаў. Не дасягнуўшы поспеху, ням.-фаш. захопнікі арганізавалі карныя аперацыі *«Веснавое свята»* і «Лівень». Праціўнік сабраў сілы каля 60 тыс. чал., у т. л. 12 палкоў СС і паліцыі, часці авіяпалявой, 5 пяхотных, ахоўнай і запасной дывізій, асобы батальён Дырлевангера, танк. полк, брыгаду здрадніка Камінскага, якія мелі 137 танкаў, 235 гармат, каля 70 самалётаў, 2 бронепаязды, і згрупаваў сілы на 7 участках вакол зоны. Карнай аперацыяй кіравалі групенфюрэр войск СС генеральны камісар акругі «Беларусь» фон Готберг і камандуючы 3-й танк. арміяй ген.-палк. Г. Рэйнгарт. Партызаны ў зоне мелі 17,5 тыс. чал., 21 гармату, 143 мінамёты, 151 процітанк. ружжо, 721 кулямёт, 1544 аўтаматы, 9344 вінтоўкі, збудавалі 287 км абарончых рубяжоў з сістэмай акопаў, дзотаў, мінных палёў, знішчылі на падыходах масты, завалілі, перакапалі і замініравалі аб'езды і дарогі, паставілі надаўбні.

11 крас. карнікі пачалі наступленне. Мужна змагаліся партызаны брыгад імя Леніна, 16-й Смаленскай, імя Чапаева. Асабліва цяжкія баі пачаліся з 18 красавіка. У бой за в. Казімірова 23 крас. супраць брыгады «Аляксея» гітлераўцы кінулі каля 1000 чал. пяхоты, 4 танкі, 2 самалёты. Толькі пасля 6 гадзін бою, калі ворага падтрымалі 50 бамбардзіроўшчыкаў, партызаны пакінулі пазіцыі. Авіяцыя 1-га Прыбалт. фронту зрабіла 354 вылеты, бамбіла скопішчы ням. войск, перапраўляла партызанам больш за 250 т грузаў, вывезла каля 1500 параненых і хворых. Часці 1-га Прыбалт. фронту баямі мясцовага значэння адцягвалі войскі карнікаў. 27 крас. гітлераўцы звузілі кола акружэння да 20 км вакол Ушач. Камандаванне зоны пасля ўзгаднення з ЦК КП(б)Б, БШПР і камандаваннем 1-га Прыбалт. фронту 30 крас. загадала партыз. брыгадам ісці на прарыў. 5 мая Смаленскі партыз. полк, партыз. брыгады імя ВЛКСМ, 16-я Смаленская, 1-я Антыфашысцкая, імя Варашылава і інш. прарвалі варожае акружэнне ў напрамку вёсак Паперына — Двор Пліна і вывелі з блакады каля 15 тыс. мясцовых жыхароў. 25 дзён гераічна змагаліся партызаны супраць карнікаў, знясілілі варожую групоўку, прычынілі ёй вял. страты: забіта 8,3 тыс. салдат і афіцэраў, паранена 12,9 тыс., знішчана і падбіта 59 танкаў, 116 аўтамашын, 7 бронемашын, 22 гарматы, 2 самалёты. У баях супраць карнікаў загінулі камбрыгі Героі Сав. Саюза А. Ф. *Данукалаў* і П. М. *Раманаў*, камбрыгі Дз. Ц. *Караленка*, У. У. *Гіль-Радыёнаў*, камісары брыгад М. Г. Жыжаў, І. Ф. *Каранеўскі*, У. С. Свірыд. Гераізм і адвагу паказалі камандзіры і камісары партыз. брыгад і атрадаў, у т. л. Дз. В. *Цябут*, І. Ф. *Садчыкаў*, Дз. А. Фралоў, І. М. *Цімчук*, І. А. *Куксёнак*, У. М. *Талаквадзе*, М. А. *Цябут*, М. В. *Уткін*, С. А. Пацей, М. А. *Саксаркін*, М. Я. *Усаў*, тысячы інш.

АБАРОНА ПОЛАЦКА-ЛЕПЕЛЬСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ ЗОНЫ І ПРАРЫЎ БЛАКАДЫ (11 красавіка–5 мая 1944 г.)



Аўтары карты: У.Е. Лабанок, А.Л. Манаеннаў

партызан. Паблізу Ушач у гонар подзвігу партызан створаны мемар. комплекс *«Прарыў»*. *У. Е. Лабанок.*

**ПО́ЛАЦКА-ЛЕ́ПЕЛЬСКАЯ ПАРТЫЗА́НСКАЯ ЗО́НА,** тэрыторыя Ушацкага, ч. Лепельскага, Ветрынскага, Бешанковіцкага, інш. раёнаў Віцебскай, Плісказа р-на Вілейскай абл., якую ў Айч. вайну кантралявалі партызаны. Створана ўвосень 1942. Да канца 1943 вызвалена 3,2 тыс. км², каля 1220 населеных пунктаў. Пад аховай партызан знаходзілася больш за 73,5 тыс. сав. грамадзян, у т. л. каля 7,5 тыс. бежанцаў з інш. раёнаў. У канцы 1943 — пач. 1944 зону ўтрымлівалі 16 партызз. брыгад: імя Чапаева, 2-я Ушацкая, імя Панамарэнкі, Лепельская імя Сталіна, Чашніцкая, імя Варашылава, «За Савецкую Беларусь», імя Кароткіна, Смаленскі партыз. полк і інш. Са снеж. 1943 кіраўніцтва дзеяннямі партыз. брыгад у зоне і іх каардынацыю ажыццяўляла аператыўная група ЦК КП(б)Б і БШПР. Аператыўная група мела сталую сувязь з 1-м Прыбалт. фронтам праз прадстаўніка БШПР сакратара ЦК КП(б)Б і І. І. Рыжыкава, з партыз. злучэннямі суседніх зон.

У зоне была адноўлена Сав. ўлада, базіраваліся Ушацкі, Лепельскі, Ветрынскі, Докшыцкі, Плісскі, Бешанковіцкі, Сіроцінскі падп. райкомы партыі і камсамола. Выдаваліся 6 раённых і 2 шматтыражныя газеты. Падтрымлівалася двухбаковая радыёсувязь з Вял. зямлёй; каля в. Сержаны, Двор Пліна, Ушацкага льнозавода дзейнічалі партыз. аэрадромы. Працавалі 2 шкіпінарна-дзягцярныя з-ды, ганчарнае, 80 кавальска-слясарных, 54 гарбарныя, 48 сталярна-бандарных прадпрыемстваў, 3 электрастанцыі, 6 млыноў, 20 маслазаводаў.

Гітлераўцы неаднойчы спрабавалі ліквідаваць зону, зімой 1943—44 правялі 5 карных аперацый, буйнейшую — у крас.— маі 1944 (гл. *Полацка-Лепельская бітва 1944*). Зона была пад кантролем партызан амаль да поўнага вызвалення тэр. рэспублікі ад ням.-фаш. акупантаў.

*Э. Ф. Языковіч.*

**ПО́ЛАЦКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1944,** наступальная аперацыя войск 1-га Прыбалт. фронту (ген. арміі І. Х. Баграмян) 29 чэрв.— 4 ліп., састаўная ч. *Беларускай аперацыі 1944.*

Удзельнічалі: арміі 4-я ўдарная (ген.-лейт. П. Ф. *Малышаў*), 6-я гвардз. (ген.-палк. І. І. Чысцякоў), 43-я (ген.-лейт. А. П. *Белабародаў*), 3-я паветр. (ген.-лейт. авіяцыі М. П. *Папівін*), 1-ы танк. корпус (ген.-лейт. танк. войск В. В. Буткоў).

Мэта аперацыі — разгром полацкай групоўкі праціўніка і вызваленне г. Полацк. Войскі 1-га Прыбалт. фронту, якія разам з 3-м Бел. фронтам завяршылі *Віцебска-Аршанскую аперацыю 1944*, у адпаведнасці з пастаўленай Стаўкай Вярх. Галоўнакамандавання задачай, прыступілі без аператыўнай паўзы да ажыццяўлення П. а. Сав. войскам процістаялі злучэнні 16-й арміі групы армій «Поўнач» і ч. сіл 3-й танк. арміі групы армій «Цэнтр». Ням.-фаш. камандаванне ператварыла Полацк у магутны вузел абароны. На падыходах да яго абарончы рубеж (кодавая назв. «Пантэра») праходзіў у палосе азёр і балот, меў развітую сістэму палявых, месцамі доўгачасовых умацаванняў, тут была сканцэнтравана групоўка ў складзе 6 пях. дывізій, горад быў падрыхтаваны да кругавой абароны. План сав. камандавання прадугледжваў ударамі па збежных напрамках з ПнУ і ПдЗ акружыць і знішчыць полацкую групоўку праціўніка. 29 чэрв. сав. войскі перайшлі ў наступленне. Галоўны ўдар наносілі войскі 4-й ударнай арміі ў напрамку на Катляны, Пазднякі, Дахнар, правафланговыя злучэнні 6-й гвардз. арміі ажыццяўлялі абход Полацка з ПдЗ, 1 ліп. яны выйшлі да ўсх. і 3 ліп. да паўд. ускраін горада. Пасля жорсткіх двухдзённых баёў Полацк да раніцы 4 ліп. быў вызвалены. Войскі левага крыла фронту — асноўныя сілы 6-й гвардз. арміі разам з войскамі 43-й арміі — разгарнулі 29 чэрв. наступленне ў напрамку Глыбокае, Казяны. Адначасова часці 1-га танк. корпуса імклівым ударам 29 чэрв. вызвалілі райцэнтр г. п. Ушачы і, пераадолеўшы каля 30 км цяжкапраходнай мясцовасці, у той жа дзень сіламі 2 (мотастралк. і танк.) брыгад авалодалі райцэнтрам в. Ветрына. Часці 159-й танк. брыгады 1-га танк. корпуса 30 чэрв. раптоўна ўварваліся на вуліцы г. Дзісна, праследуючы праціўніка, які адступаў, захапілі на правым беразе Зах. Дзвіны плацдарм і разам з воінамі 154-й стралк. дывізіі 6-й гвардз. арміі ў выніку ўпартых баёў 4 ліп. вызвалілі г. Дзісна. Злучэнні 2-га стралк. корпуса 6-й гвардз. арміі і войскі 43-й арміі перарэзалі чыгунку Полацк — Маладзечна і выйшлі на рубеж Германавічы — Пліса — Беразіно. Часці 1-га танк. корпуса фарсіравалі р. Мнюта, у ходзе наступлення ўдзельнічалі ў вызваленні райцэнтраў: разам з часцямі 6-й гвардз. арміі 1 ліп. вызвалілі г. п. Шаркаўшчына, разам з войскамі 43-й арміі 2 ліп.— в. Пліса, 3 ліп.— г. Глыбокае; войскі 43-й арміі разам з воінамі 10-й асобнай гвардз. танк. брыгады 2 ліп. вызвалілі г. Докшыцы. У вызваленні Глыбокага ўдзельнічалі партызаны брыгады «Кастрычнік», у вызваленні Докшыц — брыгады «Жалязняк». Праследуючы праціўніка, войскі левага крыла фронту прасунуліся на 3 амаль на 110 км і да зыходу 4 ліп. выйшлі на рубеж Опса —Казяны — воз. Нарач. Пасля ліквідацыі полацкай групоўкі праціўніка сав. войскі атрымалі магчымасць наступаць па абодвух берагах Зах. Дзвіны ў напрамку на Дзвінск (Даўгаўпілс). Войскі фронту дзейнічалі на стыку 2 груп ням.-фаш. армій, у ходзе аперацыі ізалявалі іх адну ад адной, не далі магчымасці групе армій «Поўнач» прыйсці на дапамогу войскам групы армій «Цэнтр», надзейна забяспечылі з Пн наступленне гал. стратэгічнай групоўкі сав. войск на Беларусі. 31 злучэнню і часці, якія вызначыліся ў аперацыі, нададзены ганаровыя найменні «Полацкіх» (гл. *Полацкія вайсковыя злучэнні і часці*).




ПОЛАЦКАЯ АПЕРАЦЫЯ 29 чэрвеня—4 ліпеня 1944 г.

**ПО́ЛАЦКІ МУЗЕ́Й БАЯВО́Й СЛА́ВЫ.** Адкрыты ў 1971 як аддзел Полацкага краязнаўчага музея. Мае 4 экспазіцыйныя залы, пл. 304 м², 454 экспанаты. Расказваецца пра абарончыя баі воінаў 390-га гаўбічна-арт. палка і 174-й стралк. дывізіі ў раёне Полацка (схема Полацкага УР, фатаграфіі і зброя абаронцаў горада), пра разгортванне падполля і партыз. руху

ў раёне: дырэктыўныя дакументы ЦК КП(б)Б, друкарскі станок, падп. газ. *«Бальшавіцкі шлях»*, фрагмент кузні і зброевай майстэрні атрада «Смерць фашызму», мед. інструменты партыз. урачоў. Матэрыялы пра баявыя дзеянні партыз. брыгад 3-й Беларускай, «Няўлоўныя», імя Варашылава, стварэнне *Полацка-Лепельскай партызанскай зоны* (электрыфікаваная карта-схема зоны, схемы дыслакацыі партыз. атрадаў, дыярама «Падрыў нафтабазы» і інш.). Экспануюцца асабістыя рэчы, дакументы, узнагароды, фатаграфіі, баявая зброя кіраўнікоў і ўдзельнікаў падполля і партыз. руху, у т. л. сакратароў Полацкіх падп. райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ М. А. *Новікава*, П. П. Ляпко, І. М. Мацвеева, Герояў Сав. Саюза У. Е. *Лабанка*, М. С. *Пруднікава*, Т. С. *Марыненкі*, камандзіраў брыгад А. Я. *Марчанкі*, Дз. В. *Цябута* і інш., матэрыялы пра выратаванне дзяцей Полацкага дзіцячага дома партызанамі і лётчыкамі 105-га гвардз. авіяпалка (фотапано «Лётчык А. П. Мамкін прымае на борт самалёта дзяцей»), мастакоў-партызан А. Гуціева і М. Абрыньбу і інш. Пра жорсткі акупац. рэжым у раёне расказваюць дыярама фрагмента лагера смерці ў в. Баравуха 1-я, дакументы, асабістыя рэчы вязняў лагераў смерці. Расказвасцца пра вызваленне Полацка і раёна ад ням.-фаш. захопнікаў: дакументы, асабістыя рэчы, узнагароды, фатаграфіі воінаў-вызваліцеляў, у т. л. камандуючага 6-й гвардз. арміяй ген.-палк. І. М. *Чысцякова*, камандзіраў стралк. дывізій ген.-маёраў С. В. Чэрнікава, А. І. Боксава, П. В. Чарнавуса, Героя Сав. Саюза В. Дз. Халева і інш., пра ўдзел палачан у абароне Брэсцкай крэпасці, Масквы, Сталінграда, Курскай бітве, у т. л. партрэт, дакументы, асабістыя рэчы Героя Сав. Саюза З. М. *Тусналобавай-Марчанкі*. У мемар. зале ўвекавечаны Героі Сав. Саюза палачане і атрымаўшыя гэта званне ў Полацкай аперацыі. *Э. М. Хазін.*

**ПО́ЛАЦКІЯ ВАЙСКО́ВЫЯ ЗЛУЧЭ́ННІ І ЧА́СЦІ.** За вызваленне г. Полацк (4.7.1944) у ходзе *Полацкай аперацыі 1944* ганаровыя найменні «Полацкіх» паводле загада ВГК ад 23.7.1944 атрымала 31 злучэнне і часць 4-й ударнай, 6-й гвардз. і 3-й паветранай армій 1-га Прыбалт. фронту.

Злучэнні і часці, якім нададзены найменні «Полацкіх»: 29-я (палк. А. К. Макар'еў) і 332-я (палк. Ц. Ф. Ягошын) стралк. дывізіі, 190-я знішчальная авіяц. дывізія (палк. В. В. Фокін), 314-я начная бамбардзіровачная авіяц. дывізія (палк. С. Ф. Плахаў), 159-я танк. брыгада (палк. І. А. Фёдараў), 45-я асобная знішчальная процітанк. арт. брыгада (падпалк. А. М. Цяплінскі), 44-я мотастралк. брыгада (падпалк. А. І. Халасў), 2-я інж.-сапёрная брыгада (палк. М. В. Сакалоў), 154-ы (падпалк. В. Дз. Ляпуноў), 156-ы (падпалк. М. М. Храброў), 158-ы (падпалк. М. К. Бялоў), 210-ы (падпалк. Ф. Р. Крывомлін), 213-ы (падпалк. А. Х. Савідзі) і 219-ы (падпалк. А. І. Расоўскі) гвардз. стралковыя палкі, 2-і асобны гвардз. цяжкі танк. полк (падпалк. А. П. Пахарукаў), 333-і (маёр П. М. Бясшчотнаў) і 335-ы (падпалк. І. І. Дусь) гвардз. цяжкія самаходныя арт. палкі, 283-і гаўбічны арт. полк (падпалк. П. Дз. Лабкоў), 1304-ы пушачны арт. полк (палк. А. С. Абрамян), 22-і (падпалк. В. Я. Супрун) і 99-ы (падпалк. П. П. Ніказенка) асобныя гвардз. мінамётныя палкі, 26-ы гвардз. мінамётны полк (падпалк. М. А. Смірноў), 408-ы армейскі мінамётны полк (падпалк. А. Р. Кудрашоў), 72-і гвардз. (падпалк. П. П. Заварухін) і 761-ы (маёр К. М. Разаронаў) знішчальныя авіяц. палкі, 683-і штурмавы авіяц. полк (падпалк. М. В. Байкоў), 49-ы асобны полк сувязі (падпалк. І. П. Каваленка), 171-ы асобны танк. батальён (маёр Ф. М. Сцепанюк), 134-ы асобны батальён сувязі (маёр А. П. Мураўёў), 512-ы асобны лінейны батальён сувязі (маёр У. В. Галіцкіх), 37-ы матарызаваны пантонна-маставы батальён (маёр Р. Я. Смірноў). Войскам, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Полацка, загадам ВГК ад 4.7.1944 абвешчана падзяка, у Маскве дадзены салют 20 арт. залпамі з 224 гармат. *М. І. Камінскі.*



У адной з залаў Полацкага музея баявой славы.

**ПО́ЛЦЕВА,** вёска на тэр. Віцебскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на З ад в. Курына. Перад вайной у ёй жыло 80 чал. 23.5.1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 29 жыхароў, вёску (18 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1958 на месцы спаленай вёскі пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ПОЛЫМЯ** (б. Дземша), вёска на тэр. Гродзенскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 4,5 км на ПнУ ад в. Бандары Скідзельскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 39 чал. 18.7.1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 36 жыхароў, у т. л. 16 дзяцей, вёску (7 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1947 на магіле ахвяр фашызму пастаўлены помнік. Вёска ўвекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ПО́МНІКІ І МЕМАРЫЯ́ЛЫ,** адзіночныя або групавыя збудаванні, створаныя па адзінай задуме ў памяць аб падзеях ці ўдзельніках Вял. Айч. вайны, — мемар. комплексы, архіт. і скульпт. манументы, помнікі-бюсты, мемар. знакі, помнікі ваен. тэхнікі і інш. Узводзяцца звычайна на месцах бітваў і памятных ваен. падзей, на *брацкіх магілах*, ваен. могілках. У мемар. комплексы часам уключаюцца музеі, дыярамы, панарамы і інш., а таксама сапраўдныя ўзоры баявой тэхнікі і ўзбраення. Першыя сціплыя П. і м. на Беларусі ствараліся ў ходзе вайны з недаўгавечных матэрыялаў (у асн. з дрэва) на брацкіх магілах, месцах гібелі сав. воінаў і партызан. Пасля вызвалення тэр. рэспублікі ад ням.-фаш. захопнікаў на Беларусі праводзіліся конкурсы

праектаў па стварэнні П. і м. героям вайны, подзвігу сав. народа. Урадам БССР былі прыняты пастановы (1946, 1959, 1966, 1967) па добраўпарадкаванню пахаванняў воінаў Чырв. Арміі, партызан і мірных грамадзян, якія загінулі ў барацьбе з фашызмам. У 2-й пал. 1940—50-х г. на Беларусі пераважалі помнікі канкрэтным героям вайны, з іх найбольш значныя: К. С. Заслонаву ў Оршы (1955), М. Казею ў Мінску (1959, абодва скульпт. С. Селіханаў), І. І. Гусакоўскаму ў Магілёве (1955, скульпт. І. Пяршудчаў), В. І. Талашу ў Петрыкаве (1958), Ф. Р. Маркаву ў Маладзечне (1959, абодва скульпт. З. Азгур), Ц. П. Бумажкову ў г. п. Акцябрскі (1961, скульпт. А. Заспіцкі), Л. М. Даватару ў в. Хоціна Бешанковіцкага р-на (1961, скульпт. А. Глебаў) і інш. У гонар перамогі сав. народа над фаш. Германіяй узведзены *Манумент Перамогі* ў Мінску. Шырокі размах атрымала загінулі ў барацьбе за Радзіму. Помнікам бяспрыкладнай стойкасці сав. людзей з'яўляецца мемар. комплекс *Брэсцкая крэпасць-герой,* абаронцы якой аднымі з першых прынялі на сябе ўдар ворага. Шматлікія П. і м. ўзведзены ў гонар партызан і падпольшчыкаў. Найбольш значныя мемар. комплексы *«Прарыў», Зыслаў*, ва ўрочышчы *Хаванічына, Расонскі мемарыяльны комплекс*, помнікі партызанам Вілейшчыны (в. Мікольцы Мядзельскага р-на, 1968, скульпт. Б. Маркаў, Я. Печкін, арх. Ю. Шпіт), патрыётам *Асінторфскага камсамольска-маладзёжнага падполля*, мемар. знакі ў Мінску ў гонар падпольшчыкаў У. С. Амельянюка (1981, скульпт. А. Анікейчык), А. А. і М. П. Чыжэўскіх і Н. П. Майсеевай (1981, скульпт. В. Занковіч) і інш. Незабыўнае ўражанне робяць П. і м. на месцах спаленых бел. вёсак *Хатынь, Дальва,* Шунёўка Докшыцкага р-на (гл. *«Праклён фашызму»*), знішчэння фашыстамі савецкіх (каля в. Брыцалавічы Асіповіцкага р-на, 1971, аўтары праекта М. Андрэеў, А. Крохмаль, С. Неўмывакін), ваен. могілкі ў Гродне (1981, скульпт. У. Церабун, арх. А. Каралькоў), брацкія магілы сав. воінаў, ваеннапалонных, партызан, падпольшчыкаў і мірных грамадзян. Братэрству па зброі, народжанаму ў сумеснай барацьбе супраць гітлерызму, прысвечаны *Мемарыяльны комплекс савецка-польскай баявой садружнасці*. Спалучэнне баявой тэхнікі і архіт. форм надае своеасаблівасць мемарыялу *«Кацюша»* ў Оршы, помнікам-танкам, устаноўленым у гонар сав. воінаў-вызваліцеляў у Барысаве, Мінску, Віцебску, Гомелі, Гродне, Магілёве, помніку-бранякатэру ў Пінску, помніку-самалёту ў Пружанах і інш. Шматлікія П. і м. землякам — удзельнікам вайны — узведзены практычна ва ўсіх гарадах, пасёлках, шматлікіх вёсках рэспублікі, на многіх з іх пералічаны прозвішчы загінуўшых. У 1960—80-я г. большасць П. і м. на Беларусі створаны ў выглядзе архітэктурных, напрыклад, *Мемарыяльны комплекс у гонар савецкіх воінаў-вызваліцеляў, партызан і падпольшчыкаў* Ві-



**Помнікі і мемарыялы.** Помнік Л. М. Даватару ў в. Хоціна Бешанковіцкага р-на.



**Помнікі і мемарыялы.** Помнік М. Казею ў Мінску.



**Помнікі і мемарыялы.** Мемарыяльны комплекс ахвярам фашызму, савецкім воінам і партызанам каля в. Брыцалавічы Асіповіцкага р-на.

будаўніцтва П. і м. у 1960-я г. ў сувязі з падрыхтоўкай да святкавання 20-годдзя Перамогі. На Беларусі створаны шэраг велічных П. і м., прысвечаных падзеям вайны. Традыцыйны тып П. і м. у рэспубліцы — шматлікія *Курганы Славы* (самы грандыёзны — *Курган Славы Савецкай Арміі — вызваліцельніцы Беларусі*), якія ўвекавечваюць подзвіг сав. народа, памяць землякоў, што А. Салятыцкі) і замежных грамадзян (гл. *Урочышча Гай*), на месцах Лупалаўскага, Масюкоўшчынскага, Трасцянецкага, Азарыцкіх лагераў смерці (гл. адпаведныя артыкулы) і інш. Вялікая група П. і м. узведзена на ваен. могілках: *Рыленкі*, гарнізонныя могілкі ў Брэсце (1948, скульпт. Л. Кербель), ваен. могілкі ў Гарадку (1974, скульпт. Ю. Патапаў, арх. Ю. Градаў, Л. Левін, цебшчыны, і скульпт. манументаў, напрыклад, *Манумент у гонар савецкай маці-патрыёткі* ў Жодзіне Смалявіцкага р-на, помнік М. Ф. Гастэлу і яго экіпажу каля г. п. Радашковічы Маладзечанскага р-на (1976, скульпт. Анікейчык, арх. Левін, Градаў), мемар. комплекс *«Змагарам за Савецкую ўладу»* ў Магілёве, *Мемарыял воінскай славы* на Лудчыцкай вышыні ў Быхаўскім р-не і інш. Да 40-годдзя Перамогі над фаш. Германіяй у сталіцы рэспублікі ўзведзены архіт.-скульпт. манумент *«Мінск — горад-герой»*. Усяго на Беларусі каля 6 тыс.

П. і м. Каля падножжа многіх запалены *Вечны агонь*. У дні ўсенар. свят каля П. і м. праводзяцца ўрачыстыя ўскладанні вянкоў, уручэнне камсам. білетаў, прыём у піянеры, воіны прымаюць прысягу. П. і м. раскрываюць веліч подзвігу сав. чалавека ў імя Радзімы, з'яўляюцца састаўной ч. духоўнага жыцця нашага грамадства. Гл. таксама арт. *Выяўленчае мастацтва*. *Л. Г. Лапцэвіч.*

**ПО́РАЗАВА**, гар. пасёлак у Свіслацкім р-не, на р. Рось. За 22 км на ПдУ ад гар. пасёлка Свіслач, за 24 км ад чыг. ст. Свіслач (на лініі Ваўкавыск — Свіслач), аўтадарогамі звязана са Свіслаччу і Ваўкавыскам. У 1940—58 вёска, да 1960 цэнтр раёна. У чэрв. 1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў П. 354 чал. На тэр. раёна дзейнічалі Свіслацкія падп. райкомы КП(б)Б (23.10.1943 — 13.7.1944) і ЛКСМБ (5.11.1943—13.7.1944). партыз. брыгады імя Чапаева і «Савецкая Беларусь», асобныя партыз. атрады імя Будзённага і «Паддубнага» (гл. адпаведныя артыкулы). Вызвалена 15.7.1944 войскамі 170-й стралк. дывізіі (камандзір А. М. Пузырэўскі) 42-га стралк. корпуса 48-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе *Беластоцкай аперацыі 1944*. У П. брацкія магілы сав. воінаў і партызан, на іх пастаўлены помнікі. *Н. У. Капранава.*

**«ПРАГУ́ЛКА НА СЕМУХУ»** («Pfingstausflug»), кодавая наз. карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партызан і мясцовага насельніцтва ў Бягомльскім, Плешчаніцкім, Барысаўскім і частцы прылеглых да іх раёнаў 22.4—12.5.1944.

Праводзілася сіламі 4-й палявой арміі, падпарадкаванымі на час аперацыі 3-й танк. арміі групы армій «Цэнтр» (632-і і 931-ы пяхотныя, 313-ы грэнадзёрскі, 31-ы паліцэйскі палкі, арт. дывізіён, роты самаходных гармат і бронемашын і інш. спец. падраздзяленні). Разглядалася фаш. камандаваннем аховы тылу 3-й танк. арміі як адна з лакальных падрыхтоўчых перад буйной карнай аперацыяй *«Баклан»*. Ваенна-аператыўнай мэтай аперацыі з'яўлялася «выцясненне бандыцкіх груп, якія знаходзіліся ў раёне Плешчаніцы — Радашковічы — Докшыцы, у паўн.-ўсх. частку бандыцкай зоны «Мінск-паўночны», як назвалі гітлераўцы *Барысаўска-Бягомльскую партызанскую зону*, што блакіравала ўсе асн. тылавыя камунікацыі 3-й танк. арміі. Баявыя дзеянні разгарнуліся ў міжрэччы Бярэзіны, Цны, Гайны, гал. чынам уздоўж дарогі Зембін — Бягомль.

Не лічачыся са стратамі, адначасова з 4 напрамкаў праціўнік адцясняў *партызанскую брыгаду «Дзядзькі Колі»* і да зыходу 22 крас. заняў в. Вял. Зацэнне, Любасеі, Кімія, Паляны (Барысаўскі р-н). Да 24 крас. брыгада адбівала атакі гітлераўцаў на рубяжы в. Зарэмбы, Клюндзеўка, Кайтанава, Завіднае (Бягомльскі р-н), Карсакавічы (Барысаўскі р-н). Страты праціўніка да гэтага часу толькі забітымі склалі да 200 чал., але сілы былі няроўныя, 24 крас. партызаны былі вымушаны адступіць у раён в. Сялец — Рэчкі — Бажадары (Бягомльскі р-н). Сюды па загаду камандзіра партыз. злучэння Барысаўска-Бягомльскай зоны Р. Н. *Мачульскага* пачалі рухацца брыгады «Жалязняк» і «Беларусь». У ноч



**Помнікі і мемарыялы.** Курган Славы ў г. п. Клічаў.



**Помнікі і мемарыялы.** Помнік Вызвалення ў Гомелі.



**Помнікі і мемарыялы.** Мемарыяльны знак на месцы гібелі У. С. Амельянюка ў Мінску.




**Помнікі і мемарыялы.** Помнік землякам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну; в. Мялешкі Слуцкага р-на.

на 28 крас. ў раёне в. Замошша і Пагранічча (Плешчаніцкі р-н) аб'яднаныя сілы 3 брыгад атакавалі праціўніка і нанеслі яму страты ў жывой сіле, толькі каля в. Гарэлы Луг (Бягомльскі р-н) гітлераўцам удалося стрымаць атаку партызан. 30 крас.— 1 мая разгарэліся жорсткія баі на рубяжы в. Мсціж — Загор'е — Гарэлы Луг. Гітлераўцы агнямётамі падпалілі лес, пасля некалькіх дзён упартых баёў партызаны былі вымушаны пакінуць в. Мрай, Мсціж, Валокі і адысці далей на Пн да в. Зарэчча, Ніўкі, Недаль, у лясны раён перад в. Уборак (Бягомльскі р-н). Тут баі працягваліся яшчэ некалькі дзён, аднак на Пн і У ад в. Карсакавічы, Паляны, Кімія, Вял. Зацэнне праціўніку замацавацца не ўдалося. Партызаны вярнулі в. Новае Сяло, Лісіна, Азяродзішча, Папарэжжа (Бягомльскі р-н), Зарэмбы, Гарэлы Луг, Кайтанава, Клюндзеўка і сталі ствараць у непасрэднай блізкасці ад ням. гарнізонаў новую лінію абароны. Страты праціўніка склалі больш за 900 чал. забітымі, 7 танкаў, 14 аўтамашын, бронетранспарцёр, 2 бронемашыны, 16 павозак з боепрыпасамі і інш. У час аперацыі гітлераўцы спалілі 11 вёсак, захапілі 1663 мужчын і 1390 жанчын.

*У. С. Пасэ.*

**«ПРАКЛЁН ФАШЫЗМУ»,** мемарыяльны комплекс на ўшанаванне памяці жыхароў в. *Шунёўка* і інш. вёсак Докшыцкага р-на, знішчаных разам з насельніцтвам у 1941—44 ням.-фаш. акупантамі. Адкрыты на месцы в. Шунёўка 3.7.1983 (скульпт. А. Анікейчык, арх. Ю. Градаў, Л. Левін).

Цэнтр. манумент мемарыяла — бронзавая фігура жанчыны (выш. 4,75 м), якая стаіць з узнятымі ў праклёне рукамі ў праёме стылізаванай брамы (выш. 11,5 м). Да абламанага канца гарызантальнай перакладзіны брамы прымацаваны 3 званы, 2 з якіх звоняць, 3-і расколаты — сімвал таго, што кожны трэці жыхар раёна загінуў у гады вайны. Непадалёку ад цэнтр. манумента бетонны зруб калодзежа, куды гітлераўцы кінулі жывымі дзяцей і настаўніцу. На ім бронзавая выява прабітага і абпаленага паветр. змея з імёнамі загінуўшых дзяцей, які сімвалізуе абарванае вайной дзяцінства. На месцы 6. сялянскіх сядзіб 22 мемар. знакі — фундаменты, над кожным з якіх трохпрыступкавы ганак, на верхніх прыступках бронзавыя кампазіцыі ў форме языкоў полымя з імёнамі б. гаспадароў — сімвал вечнай памяці аб загінуўшых.

**ПРАЛЕТА́РСКАЯ МАСКО́ЎСКА-МІ́НСКАЯ СТРАЛКО́ВАЯ ДЫВІ́ЗІЯ** гвардзейская ордэна Леніна Чырванасцяжная ордэнаў Суворава і Кутузава. Сфарміравана ў Маскве паводле загаду РВС СССР ад 31.12.1926 як 1-я Маскоўская Пралетарская стралк. дывізія ў складзе 3 стралк. палкоў і інш. часцей. У студз. 1940 перафарміравана ў 1-ю Маскоўскую мотастралк. дывізію ў складзе 2 мотастралк., 1 танк., 1 арт. палкоў і інш. часцей. Ваен. дзеянні пачала 30.6.1941 у раёне г. Барысаў, дзе за 3 дні знішчыла каля 1500 гітлераўцаў, да 60 танкаў, арт. дывізіён і 2 мінамётныя батарэі. Пад націскам намнога большых сіл ворага з баямі адышла да Оршы і далей на У. За доблесць, мужнасць і гераізм узнаг. ордэнам Чырв. Сцяга (31.8.1941) і пераўтворана ў 1-ю гвардз. мотастралк. Маскоўскую дывізію (21.9.1941). У студз. 1943 перафарміравана ў 1-ю гвардз. стралк. Маскоўскую дывізію, увайшла (з мая 1943) у склад 11-й гвардз. арміі Зах., пасля Бранскага франтоў. Удзельнічала ў баях пад Масквой, у Арлоўскай і Бранскай наступальных аперацыях. З ліст. 1943 да крас. 1944 у складзе 1-га Прыбалт. фронту вяла наступальныя баі на Віцебскім напрамку: у снеж. 1943 удзельнічала ў *Гарадоцкай аперацыі 1943*. З мая 1944 у складзе 3-га Бел. фронту ўдзельнічала ў *Беларускай аперацыі 1944*: у *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944* за прарыў добра ўмацаванай абароны ням.-фаш. войск на аршанскім напрамку ўзнаг. ордэнам Суворава II ступені (2.7.1944), вызначылася ў баях пры вызваленні Мінска ў перыяд *Мінскай аперацыі 1944*, за што атрымала ганаровае найменне «Мінскай» (23.7.1944). Удзельнічала ў Вільнюскай і Каўнаскай аперацыях: у ноч на 14.7.1944 часці дывізіі з ходу фарсіравалі р. Нёман, авалодалі плацдармам на левым беразе ракі і вялі напружаныя баі па яго ўтрыманні і пашырэнні. Узнагароджана ордэнам Леніна (14.11.1944). Удзельнічала ва Усх.-Прускай аперацыі, узяцці Кёнігсберга і ваенна-марской базы Пілаў (цяпер Балтыйск), узнаг. ордэнам Кутузава II ступені (28.5.1945). За час вайны больш за 19 тыс. воінаў дывізіі ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР, 15 з іх удастоены звання Героя Сав. Саюза.



**Помнікі і мемарыялы.** Помнік М. Ф. Гастэлу і яго экіпажу каля г. п. Радашковічы Маладзечанскага р-на.



**Помнікі і мемарыялы.** Фрагмент мемарыяльнага комплексу вызваліцелям у Пінску. Бранякатэр.

Камандзіры: палк., з 7.8.1941 ген.-маёр Я. Р. *Крэйзер* (чэрв.— жн. 1941), палк. А. І. Лізюкоў (жн.— ліст. 1941), ген.-маёр Ц. Я. Новікаў (ліст.— снеж. 1941, студз.— люты 1942), палк. С. І. *Іаўлеў* (снеж. 1941 — студз. 1942), ген.-маёр В. А. Равякін (люты — снеж. 1942), палк., з 29.1.1943 ген.-маёр М. А. Кра-

поцін (снеж. 1942 — люты 1944), палк., з 20.4.1945 ген.-маёр П. Ф. Тоўсцікаў (сак. 1944 — да канца вайны). У Маскве адна з плошчаў названа пл. Маскоўска-Мінскай дывізіі (1976), на ёй устаноўлены памятны знак (1977). У Барысаве адна з вуліц названа вул. 1-й Маскоўскай дывізіі. У гонар баявых подзвігаў дывізіі ў 1980 у Барысаве пастаўлена стэла. *М. І. Камінскі.*

**ПРАЛЕТА́РСКІ,** пасёлак на тэр. Кіраўскага р-на, знішчаны ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзіўся за 1 км на ПдУ ад в. Боркі Грыбавецкага сельсавета. Перад вайной у ім жыло 227 чал. 15.6.1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 226 жыхароў, пасёлак (31 двор) спалілі, маёмасць разрабавалі. Пасля вайны пасёлак не адрадзіўся. Увекавечаны ў мемар. комплексе Хатынь.

**ПРАПО́ЙСК,** назва *Слаўгарада* да 23.5.1945.

**ПРАПО́ЙСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з сак. 1942 да кастр. 1943 на тэр. Прапойскага (цяпер Слаўгарадскі) р-на. Аб'ядноўвала Прапойскую і Улуцка-Харэнеўскую арг-цыі, усяго 11 груп, больш за 80 падпольшчыкаў, у т. л. 22 камуністаў і 25 камсамольцаў. Да стварэння Прапойскага падп. РК КП(б)Б (жн. 1943) Прапойскай арг-цыяй кіраваў б. нам. дырэктара Чэрыкаўскага леспрамгаса камуніст С. Ф. Саўчанка, камуністы М. В. Кліменка і М. П. Хаблоў. У састаў арг-цыі ўваходзіла 8 падп. груп: камсам.-маладзёжная (кіраўнік А. С. Скальзаеў), на электрастанцыі і маслазаводзе (А. В. Шэдаў), у гар. бальніцы (В. Ф. Самусенка), гар. група (А. А. Лісіцын), у в. Віравая (І. В. Ганчароў), в. Рудня і Міхайлаў (М. В. Навуменка), в. Крамянка (І. А. Сёмкін), в. Бярозаўка і Гіжанка (В. А. Драздоў). Улуцка-Харэнеўскай арг-цыяй кіравалі камуністы Дз. Е. Савельеў і Г. А. Каралёў. У яе ўваходзілі 3 падп. групы: у в. Улукі (кіраўнік І. Я. Цімашкоў), Харэнева (І. І. Каваль), Доўгі Мох (В. А. Сцяпанаў).

Арг-цыі падтрымлівалі паміж сабой сувязь, дзейнічалі ў кантакце з *партызанскім атрадам 42-м,* Магілёўскай падп. арг-цыяй *«Камітэт садзеяння Чырвонай Арміі»,* у крас.— маі 1943 з партыз. палком «Трынаццаць». Магілёўскія падпольшчыкі Ф. П. Даніленка і А. І. Шубадзёраў перадалі праз М. Р. Емяльяненка, Самусенка, Скальзаева каля 100 экз. газ. «Правда», «Красная звезда», лістоўкі, якія размнажаліся і распаўсюджваліся падпольшчыкамі. У жн. 1942 праз В. Г. Бандарэнка перададзены з Прапойска ў в. Улукі радыёпрыёмнік, што дазволіла слухаць маскоўскія перадачы і выкрываць варожую дэзінфармацыю. У маі 1942 падпольшчыкі арганізавалі ўцёкі 23 сав. ваеннапалонных і пераправілі іх у 42-і партыз. атрад. Толькі падп. група, якая дзейнічала на электрастанцыі і маслазаводзе, здабыла і перадала партызанам 3 ручныя кулямёты, 21 вінтоўку, 5 мінамётаў, каля 50 кг толу, 11 скрынак вінтовачных патронаў, 2 скрынкі гранат. У маі 1943 на базе некалькіх падп. груп створаны *партызанскі атрад 43-і.* У чэрв. 1943 падпольшчыцы бальніцы М. К. Грыгарук, Емяльяненка, Самусенка даставілі ў атрад хірургічныя інструменты, медыкаменты, перавязачныя сродкі. 14.8.1943 падпольшчыкі Шэдаў, М. М. Барадзінава, А. К. Каліноўскі і яго сын узарвалі маслазавод, даставілі ў атрад некалькі падвод з соллю і маслам, пішучую машынку, дакументы гар. управы. Патрыёты в. Хоранеў М. М. Копчыкаў, Дз. Я. Малашанка, Р. М. Ухватаў знішчалі тэлефонную сувязь, развінчвалі рэйкі на чыгунцы, у крас.— маі 1942 раскапалі дамбу на р. Рэста, падпілілі пралёты моста. У ноч на 31.5.1943 партызаны і падпольшчыкі разграмілі камендатуру, паліцыю і турму ў Прапойску, вызвалілі прыгавораных да пакарання смерцю Скальзаева, Ф. У. Краснашчокава і інш. патрыётаў. У чэрв. 1943 патрыёты пад кіраўніцтвам Шэдава ўзарвалі гар. электрастанцыю, якую акупанты не змаглі аднавіць. Захаванне канспірацыі, своечасовы выхад у партыз. атрады дазволілі падпольшчыкам пазбегнуць правалаў і вял. страт.

У крас. 1942 фашысты пакаралі смерцю падпольшчыка з в. Доўгі Мох М. А. Баранава. *М. Ф. Шумейка.*

**«ПРАРЫ́Ў»,** мемарыяльны комплекс у гонар легендарнага прарыву варожай блакады сав. партызанамі ў крас.— маі 1944. Створаны ў 1974 (скульпт. А. Анікейчык, арх. Ю. Градаў, Л. Левін) на месцы б. баёў паміж вёскамі Паперына, Пліна і Новае Сяло, за 7 км ад г. п. Ушачы (гл. *Полацка-Лепельская бітва 1944).*



Мемарыяльны комплекс «Прарыў». Скульптура партызана.

Да вяршыні ўзгорка вядзе сімвалічны «калідор» — невялікі, сціснуты бетоннымі сценамі адрэзак шляху, якім ішлі на штурм нар. мсціўцы; побач з ім на бетоннай пліце размешчаны бронзавая карта-схема абароны 16 партыз. брыгад на 11.4. 1944 і інфармацыйны надпіс. На вяршыні ўзгорка ў разрыве бетоннай глыбы (сімвал разарванага кальца блакады) пастаўлена бронзавая 9-метровая фігура партызана, нахіленая ў нястрымным парыве наперад. Побач на мемар. полі ўмураваны 33 надмагільныя пліты з імёнамі герояў прарыву, пасаджаны 16 дубоў (сімвал 16 брыгад). Завяршае кампазіцыю «Апошні прывал» — састаўленыя ў піраміду адлітыя з бронзы карабіны і стужка з надпісам: «Яны загінулі ў барацьбе з ворагам, выканаўшы свой свяшчэнны абавязак перад Савецкай Радзімай і гісторыяй».

**ПРАТАСЕ́НЯ** Архіп Зіноўевіч (11.2. 1906, в. Пагост Салігорскага р-на — 13.1.1984), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Пінскай вобл. Чл. КПСС з 1932. З 1927 на адм.-гасп. і сав. рабоце. У партызанах з ліп. 1941: з жн. 1941 камандзір атрада, палітрук роты, у жн. 1943 — сак. 1944 камісар *партызанскай брыгады Пінскай,* адначасова сакратар Жабчыцкага падп. РК КП(б)Б. У 1944—61 на сав. і парт. рабоце ў Баранавіцкай і Гродзенскай абл. Яго імем названа вуліца ў г. п. Любча.

**ПРАХАРЭ́НКА** Яўхім Мікалаевіч (27. 12.1902, в. Несцерава Мсціслаўскага р-на — 12.5.1964), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1926. З 1925 на культурна-асветнай і журналісцкай рабоце. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. З 1941 сакратар Багушэўскага РК КП(б)Б. У партызанах з ліп. 1941: з ліп. 1942 камісар атрада, у вер. 1943 — чэрв. 1944 камандзір *партызанскай брыгады Багушэўскай* (2-га складу), адначасова ў ліп.— кастр. 1941 і ў студз. 1943 — чэрв. 1944 сакратар Багушэўскага падп. РК КП(б)Б. З 1944 1-ы сакратар Багушэўскага, у 1950 — 56 Чашніцкага РК КПБ. Дэп. ВС БССР у 1947—55.



Мемарыяльны комплекс «Праклён фашызму». Цэнтральны манумент.

**ПРО́ХАРАЎ** Мікалай Іванавіч (н. 1907, г. Данбас), адзін з арганізатараў

і кіраўнікоў партыз. руху на Беларусі. Чл. КПСС з 1927. З 1938 на парт. рабоце на Беларусі: нам. загадчыка, заг. аддзела ЦК КП(б)Б. У 1940—43 сакратар ЦК КП(б)Б па водным транспарце, адначасова з ліст. 1942 да вер. 1943 нач. *«Беларускай школы»* партызанскіх кадраў БШПР. Заг. ваен. ў 1943—48 і адм. ў 1948—50 аддзелаў ЦК КП(б)Б. У 1950—53 сакратар Віцебскага абкома КПБ. Чл. ЦК КПБ у 1940—52. Дэп. ВС БССР у 1938—51.

М. С. Пруднікаў.



**ПРО́ШКАЎСКАЕ КАМСАМО́ЛЬСКА-МАЛАДЗЁЖНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з жн. 1941 да кастр. 1942 у в. Прошкі Асвейскага р-на пад кіраўніцтвам Асвейскіх падп. райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ. Створана па ініцыятыве камуніста Р. С. Лукашонка. Аб'ядноўвала каля 30 чал. Кіраўнікі В. І. Лукашонак, з мая 1942 Г. Я. Фралёнак. Мела групы ў в. Забор'е Рэзекненскага павета Латвійскай ССР (кіраўнік А. М. Гром), у вёсках Рылькі (П. С. Смычкоў), Ляхава Себежскага р-на РСФСР, Сукалкі, Востраў, падп. піянерскае звяно ў в. Стралкі Асвейскага р-на. Трымала сувязь з падпольшчыкамі Асвеі, Расонскага р-на, з партыз. атрадам, потым брыгадай імя Фрунзе. Аб'ядноўвала беларусаў, рускіх, латышоў.

Падпольшчыкі вялі паліт. агітацыю сярод насельніцтва, распаўсюджвалі лістоўкі і зводкі Саўінфармбюро, збіралі зброю, мелі 2 склады-тайнікі, вучылі моладзь ваев. справе, падбіралі людзей у партыз. атрады, памагалі сав. воінам, якія ўцяклі з фаш. палону, зрывалі мерапрыемствы акупантаў па нарыхтоўцы збожжа і жывёлы, вялі разведку. Рабілі дыверсіі: падарвалі 3 аўтамашыны з амуніцыяй на чыгунцы Рэзекне—Себеж, паравоз і 6 вагонаў, разграмілі валасныя ўправы ў Ляхаве Себежскага і Ігналіне Асвейскага р-наў, разам з партызанамі разбілі ням. гарнізон у мяст. Шкяўне Краслаўскага р-на Латвійскай ССР.

У падполлі пачаў баявую дзейнасць Герой Сав. Саюза І. Я. Судмаліс. Вясной 1942 пайшлі ў партызаны 18 падпольшчыкаў на чале з В. І. Лукашонкам, да восені — усе чл. арг-цыі.

У в. Прошкі Верхнядзвінскага р-на ў гонар падпольшчыкаў пастаўлена стэла (1975), устаноўлены мемар. дошкі. *С. А. Высоцкі, А. Б. Рогаў.*

**ПРУ́ДНІКАЎ** Міхаіл Сідаравіч (н. 15.4.1913, в Новапакроўка Іжморскага р-на Кемераўскай вобл.), удзельнік партыз. руху на Беларусі. Герой Сав. Саюза (1943), ген.-маёр (1970). Чл. КПСС з 1937. Скончыў Ваеннаюрыдычную акадэмію (1953). З 1931 у пагранічных войсках і ў войсках АДПУ, НКУС СССР. З 1941 камандзір батальёна асобага прызначэння. З сак. 1942 камандзір спец. атрада, потым да мая 1943 — партыз. брыгады «Няўлоўныя». З 1943 у войсках НКУС, КДБ. Чл. Саюза пісьменнікаў СССР. Аўтар шэрагу кніг, п'ес, мемуараў, кінасцэнарыяў.

**ПРУЖА́НЫ,** горад, цэнтр раёна, на р. Мухавец. За 85 км на ПнУ ад Брэста, 13 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы — Брэст, вузел аўтадарог на Брэст, Высокае, Шарашова, Слонім, Кобрын. 9,6 тыс. жыхароў у 1939. Напярэдадні вайны ў П. базіраваліся 33-і знішчальны авіяполк (маёр М. В. Акулін) 10-й мяшанай авіядывізіі (палк. М. Г. Бялоў) і 30-я танк. дывізія (палк. С. І. *Багданаў*) 4-й арміі. 22.6.1941 аэрадром у П. падвергнуты масіраваным налётам ням. авіяцыі, у выніку якіх полк страціў 34 самалёты. У першым паветр. баі ў раёне П. лётчыкі палка збілі 5 варожых самалётаў, 2 самалёты збіў (адзін з іх тараніў) лейт. С. М. *Гудзімаў*. 23.6.1941 на подступах да П. разгарнуўся сустрэчны танк. бой паміж 30-й танк. дывізіяй і ням. 17-й і 18-й танк. дывізіямі 2-й танк. групы (ген.-палк. Гудэрыян), у час якога сав. воіны падбілі і падпалілі дзесяткі ням. танкаў, але і самі пацярпелі вял. страты. У баях за П. вызначыліся танк. батальёны пад камандаваннем капітана Ф. І. Лысенкі, маёра М. А. Бандуркі, танк. экіпажы ст. сяржанта Спічанкова, Мацюхіна. Баі за П. працягваліся ўвесь дзень, сав. танкісты 30-й дывізіі і воіны мотастралк. палка (будавалі ў раёне П. абарончы рубеж) 205-й матарызаванай дывізіі (ген.-маёр С. І. Аборын) двойчы выбівалі праціўніка з горада. Праціўнік абышоў П. з поўначы, нанёс удар у тыл сав. войск і захапіў горад. Акупіраваны 23.6.1941 ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў П. і раёне 12 191 чал., у т. л. ў горадзе больш за 4 тыс. чал., разбурылі горад, знішчылі 70 % жылога фонду. У П. і раёне дзейнічала раённая антыфаш. арг-цыя, падп. райкомы КП(б)Б (23.11.1943 — 11.7.1944) і ЛКСМБ (1.9.1943 — 11.7.1944), партыз. брыгады імя Панамарэнкі, «Савецкая Беларусь», атрады імя Шчорса, імя Сталіна. Вызвалены 16.7.1944 воінамі 50-й (ген.-маёр А. С. Уладычанскі), 96-й (ген.-маёр С. М. Кузняцоў) гвардз. стралк. дывізій 3-га гвардз. стралк. корпуса 28-й арміі, 65-га асобнага танк. палка (падпалк. В. Ф. Абіх), 1898-га самаходнага арт. палка (маёр В. В. Багамолаў), 63-й гаўбічнай арт. брыгады (палк. К. А. Папа), 157-й пушачнай арт. брыгады (палк. Ц. К. Кірылаў) 1-га Бел. фронту ў час наступлення на брэсцкім напрамку. У П. брацкая магіла сав. воінаў і партызана, на ёй пастаўлены помнік; помнікі сав. лётчыкам 33-га знішчальнага авіяпалка і Гудзімаву; мемар. дошкі ў гонар 33-га знішчальнага авіяпалка, воінаў-вызваліцеляў і партызан. *Т. І. Паваліхіна.*

**ПРУСА́К** Майсей Пейсахавіч (н. 10.8.1910, в. Залесная, Чэрвеньскі р-н), адзін з кіраўнікоў партыз. руху на тэр. Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1939. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1938). З 1930 на гасп., прафс., парт. рабоце. З чэрв. 1941 на фронце. З жн. 1941 кіраўнік падп. групы, якая дзейнічала на тэр. Бярэзінскага і Барысаўскага р-наў. З крас. 1942 у партызанах: камандзір дыверсійнай групы, у кастр. 1942 — ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады імя М. А. Шчорса.* У 1944—88 на парт., сав. і адм.-гасп. рабоце.

**ПРУТКО́Ў** Сцяпан Дзмітрыевіч [1.1.1911, г. Апочна (ПНР) — 10.4.1978], Герой Сав. Саюза (1943), ген.-лейт. авіяцыі (1955). Чл. КПСС з 1937. Скончыў Арэнбургскую ваен. школу лётчыкаў (1936), Ваен. акадэмію Генштаба (1949). На фронце з 1941. Удзельнік баёў пад Ленінградам, Сталінградам, у Крыме, на Беларусі, ва Усх. Прусіі. Зрабіў 61 баявы вылет. Камандзір пітурмавога авіяпалка маёр П. вызначыўся ў Сталінградскай бітве. У чэрв.— ліп. 1944 гвардз. знішчальная авіядывізія пад яго камандаваннем наносіла ўдары па ворагу ў раёнах Оршы, Барысава, Мінска, Гродна. 26.6.1944 на чыг. участку Орша — Барысаў лётчыкі дывізіі паралізавалі рух у тыле аршанскай групоўкі праціўніка, спынілі больш за 200 эшалонаў, прадухілілі разбурэнне дарогі. Нанеслі значныя страты ворагу ў *мінскім «катле».* Да 1971 у Сав. Арміі. Ганаровы грамадзянін г. Ліда.

**ПРЫБАЛТЫ́ЙСКІ ФРОНТ 1-ы,** аператыўна-стратэгічнае аб'яднанне войск Чырв. Арміі на Паўн.-Зах. і Зах. напрамках у 1943—45. Утвораны 20.10.1943 у выніку перайменавання *Калінінскага фронту.*

У склад фронту ў розны час уваходзілі арміі: 2-я гвардз. (ген.-лейт. П. Г. Чанчыбадзе), 4-я ўдарная (ген.-лейт. П. Ф. *Малышаў*), 6-я гвардз. (ген.-лейт., з 28.6.1944 ген.-палк. І. М. *Чысцякоў*), 11-я гвардз. (ген.-лейт. К. М. *Галіцкі*), 39-я (ген.-лейт. І. І. *Люднікаў*), 43-я (ген.-лейт. А. П. *Белабародаў*), 51-я (ген.-лейт. Я. Р. *Крэйзер*), 61-я (ген.-лейт. П. А. *Бялоў*), 5-я гвардз. танк. (ген.-лейт. танк. войск В. Ц. Вольскі), 3-я паветраная (ген.-лейт., з 19.8.1944 ген.-палк. авіяцыі М. П. *Папівін*).

З 1 да 21 ліст. 1943 войскі фронту вялі наступленне на віцебска-полацкім напрамку, у выніку якога пры садзеянні 2-га Прыбалт. фронту ўклініліся ў размяшчэнне ворага сваім правым крылом на 45—55 км і глыбока ахапілі з ПнЗ гарадоцкую і віцебскую групоўкі ням.-фаш. войск. У снеж. 1943 войскі фронту правялі *Гарадоцкую аперацыю 1943,* у выніку якой ліквідавалі гарадоцкі выступ праціўніка і занялі больш зручнае становішча ў адносінах да Віцебска. У лют.—сак. 1944 войскі фронту ва

ўзаемадзеянні з войскамі Зах. фронту пачалі наступленне пад Віцебскам, прарвалі абарону праціўніка і палепшылі свае пазіцыі на віцебскім напрамку. Летам 1944 войскі фронту разам з войскамі 1-га, 2-га і 3-га Бел. франтоў ажыццявілі *Беларускую аперацыю 1944:* удзельнічалі ў *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944*, правялі *Полацкую аперацыю 1944* і Шаўляйскую; 31.7.1944 выйшлі да Рыжскага заліва і да 16.8.1944 утрымлівалі адзін з участкаў яго ўзбярэжжа. З 14.9.1944 з войскамі 2-га і 3-га Прыбалт. і Ленінградскага франтоў пры падтрымцы Балтыйскага флоту П. ф. 1-ы ўдзельнічаў у Прыбалт. аперацыі і з войскамі 2-га і 3-га Прыбалт. франтоў ажыццявіў Рыжскую аперацыю, з войскамі 3-га Бел. фронту — Мемельскую (Клайпедскую) аперацыю, у выніку якой войскі П. ф. 1-га выйшлі да ўзбярэжжа Балтыйскага мора на Пд ад Ліепаі і адрэзалі групу ням. армій «Поўнач» ад Усх. Прусіі. З студз. 1945 войскі фронту ўдзельнічалі ва Усх.-Прускай аперацыі. 24.2.1945 П. ф. 1-ы скасаваны, яго войскі пад наз. Земландская група (камандуючы І. Х. *Баграмян*) уключаны ў склад 3-га Бел. фронту.

Камандуючы: ген. арміі А. І. *Яроменка* (кастр.—ліст. 1943), ген. арміі І. Х. Баграмян (ліст. 1943 — люты 1945); члены ваен. савета: ген.-лейт. Дз. С. Лявонаў (кастр. 1943 — ліст. 1944), ген.-лейт. М. В. Рудакоў (ліст. 1944 — люты 1945); нач. штаба ген.-лейт., з 28.6.1944 ген.-палк. У. В. Курасаў (кастр. 1943 — люты 1945). *М. І. Камінскі.*

**ПРЫБАЛТЫЙСКІ ФРОНТ 2-І,** аператыўна-стратэгічнае аб'яднанне войск Чырв. Арміі на паўн.-зах. напрамку ў 1943—45. Створаны 20.10.1943 шляхам перайменавання Прыбалт. фронту (створаны 10.10.1943).

У яго склад увайшлі арміі: 11-я, 20, 22-я агульнавайсковыя, 3-я ўдарная, 6-я і 11-я гвардз. і 15-я паветраная. Пасля ў розны час у склад фронту ўваходзілі 42-я і 51-я агульнавайсковыя, 1-я і 4-я ўдарныя, 10-я гвардз. і 14-я паветр. арміі, 5-ы танк., 3-і гвардз. кав. і 130-ы латышскі стралк. карпусы.

У ліст. 1943 войскі левага крыла фронту ва ўзаемадзеянні з 1-м Прыбалт. фронтам вялі наступленне на віцебска-полацкім напрамку. У ліп. 1944 войскі фронту правялі *Рэжыцка-Дзвінскую аперацыю 1944* і прасунуліся на З да 200 км. У выніку гэтай аперацыі ў жорсткіх баях быў прарваны гал. абарончы рубеж ворага «Пантэра», вызвалены раённыя цэнтры БССР: у ноч на 12 ліп. Расоны, днём 12 ліп. г. Дрыса (з 1962 Верхнядзвінск), раніцай 17 ліп. г. п. Асвея, а таксама в. Каханавічы (14 ліп.), вёска і ст. Бігосава (18 ліп.) і інш. У іх вызваленні ўдзельнічалі войскі 22-й арміі (ген.-лейт. Г. П. Караткоў), 4-й ударнай арміі (ген.-лейт. П. Ф. *Малышаў*), воіны 5-га танк. корпуса (ген.-маёр танк. войск М. Г. Сахно). Пасля вызвалення Даўгаўпілса (27.7. 1944) войскі фронту наступалі ўздоўж паўн. берага Зах. Дзвіны, прынялі ўдзел у вызваленні Рыгі і ў кастр. 1944 сумесна з войскамі 1-га Прыбалт. фронту блакіравалі ў Курляндыі групу армій «Поўнач», да крас. 1945 вялі баі па яе знішчэнню. П. ф. 2-і расфарміраваны 1.4.1945, яго войскі перададзены ў склад Ленінградскага фронту.

Камандуючыя: ген. арміі М. М. Папоў (кастр. 1943 — крас. 1944), ген. арміі А. І. *Яроменка* (крас. 1944 — люты 1945), Маршал Сав. Саюза Л. А. Говараў (люты — сак. 1945); члены ваен. савета: ген.-лейт. Л. З. Мехліс (кастр.— снеж. 1943), ген.-лейт. М. А. Булганін (снеж. 1943 — крас. 1944), ген.-лейт. У. М. Багаткін (крас. 1944 — сак. 1945); нач. штаба: ген.-лейт., з 23.8.1944 ген.-палк. Л. М. *Сандалаў* (кастр. 1943 — сак. 1945), ген.-палк. М. М. Папоў (сак. 1945). *М. І. Камінскі.*

**ПРЫБАРСКАЯ ПЕРАПРАВА 1943,** баі партыз. брыгад 14-й Цемналескай і часткі сіл 17-й (гл. адпаведныя артыкулы) з ням.-фаш. захопнікамі пры фарсіраванні партызанамі р. Сож у в. Прыбар Кармянскага р-на 28—29.9.1943.

Партызаны 14-й брыгады і 124-га атрада (камандзір У. С. Марчук) 17-й брыгады ў 2-й пал. вер. 1943 былі адцяснёны намнога большымі сіламі праціўніка ў амаль бязлесны раён на Пн ад г. п. Карма паміж шашой Прапойск — Доўск і р. Сож. Было вырашана пераправіцца на другі бераг Сажа. На шляху да пераправы ў вёсках Студзянец, Салабута, Касцюкоўка Кармянскага і Міхееўка Прапойскага р-наў знаходзілася каля 1 тыс. гітлераўцаў, якія былі заняты будаўніцтвам умацаванняў на правым беразе Сажа супраць наступаючых сав. войск.

27.9.1943 на нарадзе камандзіраў і камісараў атрадаў камандзір 14-й Цемналескай брыгады С. Р. Ялецкі аддаў загад разграміць гэтыя гарнізоны і пераправіцца на левы бераг Сажа ў в. Прыбар, каб злучыцца з Чырв. Арміяй. Былі абазначаны рубяжы для наступлення, сігналы для начнога бою, месца пераправы і яе прыкрыццё. Вечарам 28 вер. ў выніку 1,5-гадзіннага бою гарнізоны ворага, якія прыкрывалі партызанам шлях да пераправы, былі разбіты і рассеяны. Праціўнік страціў забітымі больш за 280 чал., знішчана 5 аўтамашын, 89 павозак з ваен. маёмасцю, склады з боепрыпасамі, харчаваннем, абмундзіраваннем і гаручым, разбіты штаб ням. аддзялення сапёрнай часці, радыёвузел. На досвітку 29.9.1943 на падручных сродках байцы партыз. атрадаў фарсіравалі Сож і выйшлі ў Краснапольскі р-н, дзе ўзялі пад сваю ахову вёскі Сычын, Малая Шышкоўка, Новая Ельня, Доўгая Карма, якія спрабавалі спаліць фаш. салдаты-факельшчыкі. Спробы гітлераўцаў скінуць партызан у Сож праваліліся. 1.10.1943 партыз. атрады злучыліся з часцямі Чырв. Арміі. Партызаны страцілі забітымі і параненымі 22 чал. *У. С. Пасэ.*

**ПРЫГАНІНСКІ БОЙ 1943,** бой партыз. атрадаў 5-га, 10-га, асобных падраздзяленняў атрадаў 1-га і 20-га *Шклоўскай ваенна-аператыўнай групы* супраць ням.-фаш. захопнікаў у в. Прыгані Круглянскага р-на 3.10.1943.

Прыгавінскі гарнізон (каля 90 гітлераўцаў, узброеных мінамётам, 2 кулямётамі, аўтаматамі і вінтоўкамі) меў у сістэме абароны 4 дзоты, падыходы да якіх былі перакрыты загародамі з калючага дроту. Прамы штурм гарнізона не гарантаваў поспеху бою. Таму партызаны вырашылі ўжыць ваен. хітрасць.

Група партызан (80 чал.) на чале з нач. штаба Шклоўскай ВАГ Р. М. Севасцьянавым пераапранулася ў форму ням. салдат і разам з абозам бесперашкодна ўвайшла ў вёску, пранікла ў 3 дзоты і знішчыла гітлераўцаў. Гарнізон апошняга 4-га дзота быў узяты пасля жорсткай схваткі. У выніку бою гарнізон быў поўнасцю разгромлены, захоплена ўсё яго ўзбраенне, склады з боепрыпасамі і харчаваннем, статак кароў, якіх акупанты канфіскавалі ў навакольных вёсках. Партызаны страцілі 4 чал. забітымі, 9 чал. параненымі. *У. С. Пасэ.*

**ПРЫЛЕПСКАЕ ПАРТЫЙНА-КАМСАМОЛЬСКАЕ ПАДПОЛЛЕ,** састаўная частка *Мінскага партыйнага падполля*. Дзейнічала з ліп. 1941 да снеж. 1942 у Мінскім р-не. Створана па ініцыятыве камуніста І. Д. Будаева з камуністаў, камсамольцаў і беспарт. патрыётаў вёсак Прылепскага сельсавета: Задомля, Прылепы, Прыстрамы. У розны час налічвала больш за 20 чал. Кіраўнікі — камуністы І. Дз. Будаеў (ліп.— жн. 1941) і П. І. Санковіч. Трымала цесныя сувязі з *Мінскім падпольным гаркомам КП(б)Б*, Варашылаўскім падп. РК КП(б)Б г. Мінска, з парт. групамі і атрадамі, якія дзейнічалі на тэр. Смалявіцкага, Лагойскага і Барысаўскага р-наў, працавала па іх заданню. У арг-цыю ўваходзілі настаўнікі, школьнікі, былыя актывісты калгаса і сельсавета. З дапамогай схаванага школьнага радыёпрыёмніка патрыёты запісалі прамову Сталіна ад 3.7.1941, прымалі і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, наладзілі збор зброі і боепрыпасаў. У падвале Прылепскай школы быў абсталяваны пункт харчавання для параненых чырвонаармейцаў. Па рашэнню партгрупы дырэктар школы Я. М. Ганчароў і камсамолец Д. П. Манулевіч былі накіраваны на работу ў валасную ўправу. Гэта дало магчымасць атрымаць доступ да пячатак, бланкаў і інш. дакументаў акупацыйных органаў. У канцы жн. 1941 Будаеў пераехаў у Мінск, дзе наладзіў сувязь з гарадской падп. парт. арг-цыяй. Прылепскую арг-цыю ўзначаліў ветфельчар Санковіч. Яна была своеасаблівым базавым перасылачным пунктам Мінскага падп. ГК КП(б)Б і Варашылаўскага падп. РК КП(б)Б. Тут людзі, што ішлі з лесу ў Мінск, атрымлівалі неабходныя дакументы і прытулак, а што ішлі ў партыз. атрады — зброяю. Сувязь падпольшчы-

каў з горадам ажыццяўлялася праз камуніста П. І. Лучанка, камсамолку А. Ф. Бандарчык, настаўнікаў В. С. Бандарчык, Ганчарова і інш. Падпольшчыкі аказвалі дапамогу ГК КП(б)Б прадуктамі, вывозілі з горада лістоўкі, шрыфты, зброю, боепрыпасы. Акрамя забеспячэння партыз. атрадаў зброяй і боепрыпасамі, аказання дапамогі ваеннапалонным і мінскім падпольшчыкам члены Прылепскай арг-цыі прымалі актыўны ўдзел у баявой дзейнасці. Летам 1942 знішчылі мост цераз р. Усяжа на шашы Смалявічы — Лагойск, разграмілі малакапрыёмны пункт у в. Тадуліна. Восенню 1942 з дапамогай камсамолак А. Ф. Бандарчык і Н. В. Гараўскай партызаны разграмілі валасную ўправу ў Прылепах. Пасля вераснёўскага правалу Мінскага падполля асн. частка членаў Прылепскай арг-цыі пайшла да партызан. Тыя падпольшчыкі, што асталіся, працавалі па заданню 2-га сакратара Смалявіцкага падп. РК КП(б)Б Санковіча.

У барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі загінулі: С. А. Вашкевіч, Н. В. Гараўская, В. І. Давыдаў, П. І. Лучанок, А. І. Мрочак, А. Санковіч, П. І. Санковіч. *А. М. Літвін.*

**«ПРЫМЕ́ЖНЫ КАЛГА́СНІК»,** газета, заснавана ў 1930. У час ням.-фаш. акупацыі орган Ушацкага падп. РК КП(б)Б. Вядома 14 нумароў за 12.7. 1943—24.3.1944 на бел. і рус. мовах. Рэдактар М. І. Гайсёнак. Пасля вызвалення выдавалася пад наз. «Сацыялістычны шлях», з 1967 «Патрыёт», орган Ушацкага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«ПРЫ́ПЯЦКІЯ БАЛО́ТЫ»** («Pripiatsee»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць падраздзяленняў Чырв. Арміі, што трапілі ў акружэнне, партызан і мясцовага насельніцтва на тэр. Брэсцкай, Пінскай, Палескай і Мінскай абл. 19.7—31.8.1941.

Праводзілася сіламі 162-й і 252-й пях. дывізій і 1-й кав. брыгады СС на чале з нач. СС і паліцыі тылу групы армій «Цэнтр» Бах-Зелеўскім у адпаведнасці з распараджэннем рэйхсфюрэра СС Гімлера. «Асобы загад» Гімлера ад 28.7.1941 патрабаваў ад карнікаў знішчыць у раёне Прыпяцкіх балот вёскі, дзе будзе супраціўленне, расстрэльваць усіх западозраных у падтрымцы партызан, вывезці жанчын і дзяцей, канфіскаваць жывёлу і прадукты.

Карнікі жорстка расправіліся з сав. людзьмі. Толькі 2-і кав. полк расстраляў 6526 чал. Паводле звестак камандавання кав. брыгады СС на 13.8.1941 у выніку аперацыі загублена 13 788 сав. грамадзян. Карнікі спалілі шмат населеных пунктаў, у т. л. в. Хатынічы (загубілі 73 чал.) Ганцавіцкага р-на, Азяраны (30 чал.), Запясочча (300 чал.), Пагост (69 чал.), Рыдча (26 чал.), Старажоўцы (30 чал.), Чэрнічы (40 чал.) Жыткавіцкага р-на, Вял. Гаць (123 чал.), Святая Воля (436 чал.) Косаўскага р-на, Асташкавічы (120 чал.), Славень (72 чал.) Парыцкага р-на, Радзецк (13 чал.), Чадзель (38 чал.) Пружанскага р-на і інш.

27.4.1942 усім паслам і пасланнікам дзяржаў, з якімі СССР падтрымліваў дыпламатычныя адносіны, была накіравана нота нар. камісара замежных спраў СССР, у якой гаварылася, што ў студз. 1942 у баях пад г. Таропец Калінінскай вобл. часці Чырв. Арміі разграмілі кав. брыгаду СС. Сярод захопленых дакументаў аказаліся справаздачы камандзіраў палкоў гэтай брыгады «Аб правядзенні ўціхамірвальнай прыпяцкай аперацыі...» «Мы выгналі жанчын і дзяцей у балоты,— паведамляў камандзір 2-га палка СС,— але гэта не дало належнага эфекту, таму што балоты не былі настолькі глыбокія, каб можна было ў іх патануць». Сярод дакументаў таксама была выяўлена тэлеграма камандзіра брыгады СС, у якой паведамлялася, што Гімлер палічыў «надта нязначнай» колькасць загубленых жыхароў, патрабаваў «дзейнічаць радыкальна» і штодзённа паведамляць яму (Гімлеру) колькасць расстраляных».

*В. С. Лазебнікаў, У. С. Пасэ.*

**ПРЫСЯ́ГА БЕЛАРУ́СКАГА ПАРТЫЗА́НА,** урачыстая клятва партызан змагацца супраць акупантаў да поўнага іх выгнання з сав. зямлі.

Прысягу партызаны Беларусі давалі ў грамадз. вайну. У Вял. Айч. вайну ў асобных атрадах прысягу прымалі з першых дзён партыз. руху. Тэксты выпрацоўвалі непасрэдна ў атрадах. Адзіны тэкст прысягі распрацаваны ў пач. жн. 1941 ЦК КП(б)Б і партыз. школай (каля Гомеля), надрукаваны ў газ. «Звязда» і лістоўках, якія з самалётаў скінуты над Беларуссю. 12.5.1942 на сумесным пасяджэнні Прэзідыума ВС БССР і Бюро ЦК КП(б)Б зацверджаны тэкст прысягі і парадак яе прыняцця. Лістоўкі з тэкстам прысягі (100 тыс. экз.) з дапамогай авіяцыі распаўсюджаны ў раёнах дыслакацыі партызан. П. б. п. прымалі перад строем атрада пад сцягам.

**ПРЫТЫ́ЦКІ** Сяргей Восіпавіч (1.2.1913, в. Гаркавічы Беластоцкага ваяводства ПНР — 13.6.1971), дзеяч рэв. руху ў Зах. Беларусі, адзін з арганізатараў камсам. падполля і партыз. руху на Беларусі ў Айч. вайну, савецкі парт. і дзярж. дзеяч. Чл. КПСС з 1932. Скончыў ВПШ пры ЦК ВКП(б) (1948). Пасля вызвалення Зах. Беларусі Чырв. Арміяй у 1939 выбраны дэпутатам Нар. сходу Зах. Беларусі, нам. старшыні Беластоцкага аблвыканкома. У чэрв.— жн. 1941 удзельнічаў у стварэнні абарончых збудаванняў вакол Магілёва і фарміраванні нар. апалчэння ў Гомелі. З жн. 1941 на фронце, у 1942—44 2-і сакратар ЦК ЛКСМБ, неаднойчы бываў на акупіраванай тэр. Беларусі і кіраваў дзейнасцю камсам. падполля. У 1944—45 нам. нач., нач. Польскага штаба партыз. руху. З 1949 1-ы сакратар Гродзенскага, Баранавіцкага, Маладзечанскага, Мінскага абкомаў КПБ. У 1962—68 сакратар ЦК КПБ, старшыня Камітэта парт.-дзярж. кантролю ЦК КПБ і СМ БССР, нам. старшыні СМ БССР. З 1968 Старшыня Прэзідыума ВС БССР і нам. Старшыні Прэзідыума ВС СССР. Чл. ЦК КПСС з 1961. Чл. ЦК КПБ з 1949, чл. Бюро ЦК КПБ з 1960. Дэп. ВС СССР з 1940, ВС БССР з 1940. Яго імем названы Гродзенскае вытворчае аб'яднанне «Азот», з-д у Сакольцы (ПНР), калгас у Бераставіцкім, саўгас у Маладзечанскім р-нах, школа ў г. п. Вял. Бераставіца, ваеннапатрыятычны музей школы № 20 г. Мінска, вуліцы ў шматлікіх гарадах Беларусі; у Мінску на доме, дзе жыў П., мемар. дошка. Яму прысвечаны раздзел экспазіцыі ў Дзярж. музеі БССР, мемар. зала ў Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі, музей на яго радзіме.

**ПСТЫ́ГА** Іван Іванавіч (н. 10.4.1918, в. Сухаполы Архангельскага р-на Башкірскай АССР), маршал авіяцыі (1975), Герой Сав. Саюза (1978). Засл. ваен. лётчык СССР (1967). Чл. КПСС з 1941. Беларус. Скончыў Энгельскае ваен. авіяц. вучылішча (1940), Ваен. акадэмію Генштаба (1957). У Айч. вайну на Паўд.-Зах., Сталінградскім, Бранскім, 1-м і 2-м Прыбалт., 3-м Бел. і 1-м Укр. франтах: камандзір звяна, эскадрыллі, нач. паветр.-стралк. службы авіядывізіі, корпуса, камандзір штурмавога авіяпалка. Зрабіў 96 баявых вылетаў. Удзельнік Сталінградскай бітвы, Беларускай, Вільнюскай, Каўнаскай, Вісла-Одэрскай, Берлінскай аперацый. Пасля вайны на камандных пасадах у ВПС, з 1977 у цэнтр. апараце Міністэрства абароны, з 1988 у Групе генеральных інспектараў Міністэрства абароны СССР.

**ПУА́П** (Роуре) Ралан дэ ла (н. 1920, г. Ла-Гранж-Фор, Францыя), Герой Сав. Саюза (1944). Француз. Заслужаны лётчык Францыі. З 1940 у радах руху «Змагарная Францыя». У складзе англійскіх войск удзельнічаў у баях супраць гітлераўцаў. З ліст. 1942 у СССР, ст. лейтэнант, камандзір эскадрыллі авіяпалка *«Нармандыя — Нёман».* Удзельнік Беларускай і Усх.-Прускай аперацый. Зрабіў 70 баявых вылетаў. Збіў 15 варожых самалётаў.

**ПУГА́НАЎ** Віктар Паўлавіч (9.2.1901, Астрахань — 24.6.1941), ген.-маёр (1940). Чл. КПСС з 1925. У Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1928). У пач. Айч. вайны камандзір 22-й танк. дывізіі, якая з раніцы 22.6.1941 удзельнічала ў абарончых баях на рубяжы Зах. Буга на Пд ад Брэста, 23 чэрв. ў час контрудару сав. войск з раёна Жабінкі разграміла мотакалону ням. войск, разам з часцямі 28-га стралк. корпуса на ПнЗ ад Кобрына змагалася супраць 2 танк., 1 матарызаванай і некалькіх пях. дывізій ворага. Загінуў у баі.

**ПУ́ЛКА-ДЗМІ́ТРЫЕЎ** Аляксандр Дзмітрыевіч (12.9.1893, с. Вял. Слабада Карэліцкага р-на — 13.11.1962), ген.-

лейтэнант (1944). Чл. КПСС з 1925. У арміі з 1915, у Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў ваен. акадэміі імя Фрунзе (1927, 1934), Генштаба (1938). З 1942 на Паўд.-Зах., Бранскім, Цэнтр., Бел., 1-м Бел., 1-м і 3-м Прыбалт. франтах: нач. штаба ўпраўлення тылу фронту, нам. камандуючага арміяй па тылу, нач. штаба арміі. Удзельнік Сталінградскай і Курскай бітваў, вызваленя Беларусі, Прыбалтыкі, Польшчы, Берлінскай аперацыі. У 1945—54 нач. штаба — 1-ы нам. камандуючага ваен. акругамі. Чл. ЦК КПБ у 1954—56.



І. І. Пстыга.



Р. дэ ла Пуап.



В. П. Пуганаў.



А. Дз. Пулка-Дзмітрыеў.



П. П. Пурын.



С. С. Пустэльнікаў.

**ПУ́РЫН** (Пурынь) Павел Паўлавіч (12.2.1911, в. Рэчыца Чэрыкаўскага р-на — 7.5.1977), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС. У Чырв. Арміі з 1928. Скончыў Кіеўскае арт. вучылішча (1932), Вышэйшыя акадэмічныя курсы пры Ваен. акадэміі імя Дзяржынскага. Удзельнік вызвалення Зах. Украіны ў 1939. З 1941 на Паўд.-Зах., Сталінградскім, Данскім, 2-м і 1-м Укр. франтах. Удзельнік Сталінградскай і Курскай бітваў, фарсіравання Дняпра, вызвалення Украіны, Малдавіі, Прагі, штурму Берліна. Вызначыўся 27.1.1945 пры фарсіраванні Одэра. Арт. брыгада пад камандаваннем палкоўніка П. пераправілася цераз раку, скавала дзеянні праціўніка, дала магчымасць сапёрам аднавіць разбураны мост і пачаць пераправу падраздзяленняў і баявой тэхнікі на плацдарм. Да 1956 у Сав. Арміі. Яго імем названа вуліца ў г. Крывы Рог.

**ПУСТАВІ́Т** Фёдар Цярэнцьевіч (н. 29.4.1917, с. Гунча Гайсінскага р-на Вінніцкай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1941. З 1935 на пед. рабоце. З жн. 1941 на Зах. фронце. З вер. 1942 у тыле ворага, у распараджэнні падп. міжрайпартцэнтра Барысаўскай зоны, у снеж. 1942 — чэрв. 1944 камандзір *партызанскай брыгады імя С. М. Кірава.* З 1944 дырэктар гархарчгандлю, заг. гарфінаддзела ў Оршы.

**ПУСТЭ́ЛЬНІКАЎ** Сямён Сільвестравіч (10.2.1921, в. Свісцёлкі Аршанскага р-на — 5.2.1945), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1941. На фронце з чэрв. 1941, удзельнік баёў пад Ленінградам. Пасля цяжкага ранення з 1944 у пагранвойсках. Затрымаў 20 варожых агентаў. 5.2.1945 яфрэйтар П. перарэзаў шлях 25 бандытам і адзін вёў з імі бой. Змагаўся да апошняга патрона. Падарваў гранатай сябе і ворагаў, якія яго акружылі. Яго імем названы пагранзастава на Украіне (навечна залічаны ў яе спісы), вуліца ў Львове, вуліца і школа ў Оршы.

**ПУСТЭ́ЛЬНІКІ,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на ПдЗ ад в. Мотужы Сенькаўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жылі 84 чал. У лютым 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»,* фашысты загубілі 57 жыхароў, вёску (21 двор) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1975 на яе месцы насыпаны курган і пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ПУ́ХАВІЦКІ РАЁННЫ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты ў 1974 (з 1964 школьны, з 1969 народны) у в. Дукора Пухавіцкага р-на. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, мае 334 экспанаты, у т. л. 185 асн. фонду, пл. 32 м². Прадстаўлены матэрыялы пра пачатковы перыяд вайны: фатаграфія ўдзельніка абароны Брэсцкай крэпасці земляка К. І. Холада, зброя, асабістыя рэчы сав. воінаў, знойдзеныя на месцах баёў каля в. Старынка і Падказелле; пра ўзнікненне і разгортванне падполля і партыз. руху ў раёне: лістоўкі «Да працоўных Беларусі» і «Красная Армия идёт к нам», падп. газ. *«Бальшавіцкі сцяг»* і клішэ аднаго з нумароў, фатаграфіі сакратароў Рудзенскіх падп. РК КП(б)Б Ф. В. Глебава, І. П. Цихончыка, РК ЛКСМБ А. Р. Тарасава, Пухавіцкага РК ЛКСМБ П. М. Асадчыка, кіраўнікоў і членаў партыйнай дыверсійнай групы в. Дукарка, кіраўніка падп.-камсам. арг-цыі г. Мар'іна Горка В. І. Варывончыка і інш. Экспануюцца пячатка і распіска ў атрыманні прадуктаў ад насельніцтва партыз. атрада імя Калініна, фатаграфіі, асабістыя рэчы, дакументы, узнагароды партызан, у т. л. Героя Сав. Саюза М. П. *Пакроўскага,* камандзіра атрада «Камсамол» П. С. Вараб'ёва і яго кніга «Імя камсамола», нач. штаба атрада «Перамога» С. Л. Кардаша, партызана 208-га асобнага палка імя Сталіна У. П. Лявіцкага, фатаграфія і зборнік партыз. песень А. Пятровіча і інш. Пра злачынствы ням.-фаш. захопнікаў у раёне расказваюць фатаграфіі ахвяр фашызму, асабістыя рэчы і прылады працы вязняў лагераў смерці, матэрыялы пра спаленыя разам з жыхарамі вёскі, пра Скобраўскі лагер смерці і інш. Расказваецца пра вызваленне Пухавіцкага р-на войскамі 3-й і 48-й армій 1-га Бел. фронту, пра 8 Герояў Сав. Саюза, якія вызначыліся каля в. Вузляны ў час ліквідацыі мінскага «катла», экспануюцца фатаграфіі, асабістыя рэчы, зброя лётчыка М. Ф. Ермакова, які загінуў каля в. Пухавічы і інш. Асобны стэнд прысвечаны землякам — удзельнікам Вял. Айч. вайны, у т. л. 6 Героям Сав. Саюза. У экспазіцыі карціны В. Свістуна «Каля першай зямлянкі» і Г. Бржазоўскага «Каля рацыі».

*М. Ф. Мазоўка.*

**ПУ́ХАЎ** Мікалай Паўлавіч (25.1.1895, в. Грышова Бабыніцкага р-на Калужскай вобл.— 28.3.1958), ген.-палк. (1944), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1941. У арміі з 1916, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік 1-й сусв., грамадз. войнаў. З 1941 на Паўд.-Зах., Бранскім, Цэнтр., 1-м Укр. франтах. Удзельнік Курскай бітвы, вызвалення Украіны, Варонежска-Касторненскай, Вісла-Одэрскай, Берлінскай і Пражскай аперацый. Войскі 13-й арміі пад яго камандаваннем у вер. 1943 фарсіравалі Дняпро на ўчастку ад Камарына Гомельскай вобл. да Акунінава Чарнігаўскай вобл. За майстэрства і мужнасць у гэтай аперацыі 203 воінам арміі, у т. л. П., прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Пасля вайны камандуючы арміяй, ваен. акругамі. Дэп. ВС СССР у 1946—58. Аўтар

успамінаў «Гады выпрабаванняў» (1959).

**ПУЦЕ́ЙКА** Міхаіл Канстанцінавіч (8. 11.1913, в. Раўкуцевічы Мінскага р-на — 21.4.1945), ген.-маёр (1944). Чл. КПСС з 1940. У Чырв. Арміі з 1934. Скончыў Мінскае пях. вучылішча (1937), Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1941). З 1941 на Паўн., Паўн.-Зах., Варонежскім, 2-м і 1-м Укр. франтах, камандзір батальёна, палка, нач. штаба і камандзір дывізіі. Удзельнік абарончых баёў у Прыбалтыцы, ліквідацыі Дзямянскага плацдарма праціўніка, вызвалення Правабярэжнай Украіны, Яска-Кішынёўскай, Сандамірска-Сілезскай і Ніжнесілезскай аперацый. 19.4.1945 смяротна паранены ў баі. Яго імем названа вуліца ў г. Заслаўль; на будынку Шаршунскай сярэдняй школы ў Мінскім р-не мемар. дошка.



М. П. Пухаў. М. К. Пуцейка.

**ПУЦЯ́ТА** Уладзімір Захаравіч (н. 5.7. 1906, в. Парэчча Акцябрскага р-на), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Палескай вобл. Чл. КПСС з 1943. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1952). З 1929 рабочы. З чэрв. 1941 на Зах. фронце. У партызанах з снеж. 1941: з чэрв. 1942 нач. штаба атрада, брыгады, у чэрв. 1943 — чэрв. 1944 камандзір *партызанскай брыгады 225-й.* У 1944—78 на сав., адм.-гасп. і гасп. рабоце ў Гродне.

**ПУЧКАРО́Ў** Мікалай Рыгоравіч (2.3. 1913, в. Галі Шумілінскага р-на — 17.10.1975), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Вілейскай вобл. Чл. КПСС з 1940. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КПБ (1953). З 1938 на сав. рабоце ў Сіроцінскім р-не. У ліп. 1941 пакінуты ў тыле ворага. У партызанах з крас. 1942: радавы, палітрук узвода, роты, інструктар Сіроцінскага падп. РК КП(б)Б, у вер. 1941 — чэрв. 1944 камісар, адначасова ў вер.— кастр. 1943 в. а. камандзіра *партызанскай брыгады імя ЦК КП(б)Б,* у чэрв.— ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады дыверсійнай Беларускай імя У. І. Леніна,* адначасова чл., у чэрв. 1944 сакратар Докшыцкага падп. РК КП(б)Б. З 1944 на парт. і адм.-гасп. рабоце ў Полацкай і Віцебскай абл.

**ПУШАЛА́ТЫ,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на З ад в. Сар'я. Перад вайной у ёй жыў 81 чал. У лютым 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»,* фашысты загубілі 43 жыхароў, вёску (17 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1982 на месцы вёскі насыпаны курган, пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ПУ́ШЧЫН** Казімір Францавіч (1908, в. Пціч Петрыкаўскага р-на — 11.1. 1961), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1928. З 1928 на камсам. рабоце ў Азарычах і Калінкавічах, з 1937 на гасп. рабоце. З чэрв. 1941 у Чырв. Арміі. У партызанах з ліп. 1942: камандзір групы, з ліст. 1942 атрада, у кастр. 1943 — ліп. 1944 *партызанскай брыгады 121-й імя А. Ф. Брагіна.* З 1944 нам. старшыні Мінскага гарвыканкома, старшыня Уздзенскага райвыканкома, з 1956 нач. упраўлення Мінскага аблвыканкома. Дэп. ВС БССР з 1947.

**ПЦІ́ЦКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1942** (кодавае найменне «Рэха на Палессі»), баявая аперацыя злучэння партыз. атрадаў Мінскай і Палескай абл. (гл. ў арт. *Мінскае партызанскае злучэнне)* па знішчэнню чыг. моста цераз р. Пціч на лініі Брэст — Гомель у Капаткевіцкім р-не 3.11.1942.

Партызаны неаднаразова перапынялі рух па гэтай магістралі. Толькі за перыяд з 20 вер. да пачатку ліст. 1942 яны падарвалі 49 эшалонаў праціўніка. Каб надоўга вывесці дарогу са строю, *Мінскі падпольны абком КП(б)Б* і штаб партыз. злучэння Мінскай і Палескай абл. распрацавалі план аперацыі па падрыву чыг. моста цераз р. Пціч. План аперацыі быў ухвалены ЦК КП(б)Б і ЦШПР. Для яе забеспячэння з Вял. зямлі спец. рэйсам даставілі боепрыпасы і ўзрывчатку. Мост цераз р. Пціч даўжынёй больш за 150 м з двухпутнай каляёй кругласутачна ахоўвалі 2 узводы салдат, якія размяшчаліся ў 4 дзотах. На ўзбраенні вартаўнікоў былі кулямёты, мінамёты і пушкі. Падыходы да моста былі добра ўмацаваны. За 800 м ад моста на ст. Пціч знаходзіўся гарнізон праціўніка (каля 750 гітлераўцаў), вораг мог хутка падкінуць падмацаванне з суседніх гарнізонаў. У аперацыі ўдзельнічала 11 партыз. атрадаў агульнай колькасцю 1300 чал. Каб увесці праціўніка ў падман, партызаны стварылі бачнасць канцэнтрацыі сваіх сіл у г. п. Капаткевічы, а самі ў ноч на 3 ліст. сканцэнтравалі атрады ў р-не ст. Пціч каля в. Млынок Капаткевіцкага р-на. Перад штурмам моста, каб не дапусціць падыходу падмацаванняў праціўніка, 2 групы прыкрыцця падарвалі чыг. палатно і пашкодзілі лініі сувязі злева і справа ад месца аперацыі: атрады імя Суворава пад камандаваннем М. П. *Бумажкова* (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 225-я*) і Дз. Ц. Гуляева (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 101-я імя Аляксандра Неўскага*) за 13 км на З ад ст. Пціч, паміж станцыямі Муляроўка і Коржаўка, група партызан (250 чал.) брыгады Ф. І. Паўлоўскага (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 123-я Акцябрская імя 25-годдзя БССР*) пад камандаваннем камісара брыгады С. В. *Маханько* за 6 км на У ад моста. Атрад імя Чапаева (камандзір Г. М. *Сталяроў,* гл. ў арт. *Партызанская брыгада 258-я імя В. У. Куйбышава*) у колькасці 100 чал. застаўся ў рэзерве. Атрад А. І. Патрына (пазней атрад імя Л. М. Даватара *партызанскай брыгады 64-й імя В. П. Чкалава*) прыкрываў ударную групу з Пн з боку г. п. Капаткевічы. Атрады А. І. *Далідовіча* (пазней атрад імя Я. Дз. Гарбачова *партызанскай брыгады 25-й імя П. К. Панамарэнкі*) і М. М. Розава (пазней атрад імя М. М. Громава партыз. брыгады 64-й імя Чкалава) колькасцю 350 чал. у 6 гадзін адкрылі шчыльны агонь па гарнізоне ст. Пціч і дзотам каля моста, каб не даць праціўніку магчымасць аказаць дапамогу ахове моста ў момант штурму. Галоўны ўдар па ахове моста наносілі і забяспечвалі дзеянні падрыўнікоў атрады Капаткевіцкі (камандзір А. А. *Жыгар;* гл. ў арт. *Партызанская брыгада 125-я Капаткевіцкая*), А. П. Пакуша (пазней атрад імя Чапаева партыз. брыгады 225-й) і Р. І. Краўца (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 130-я Петрыкаўская*). Група падрыўнікоў пад кіраўніцтвам В. П. Шымчонка і К. Ф. *Пушчына* (камандзір атрада імя М. Ф. Гастэлы; гл. ў арт. *Партызанская брыгада 121-я імя А. Ф. Брагіна*) пад абстрэлам праціўніка заклала пад мост больш за 300 кг узрывчаткі і падарвала яго. Бой за авалоданне мостам працягваўся 1 гадз 10 хвілін. Праціўнік пакінуў свае ўмацаванні і адступіў у напрамку да г. Петрыкаў, страціўшы ў баі на мосце 25 забітымі і 5 паранеымі; страты партызан — 11 забітых і 10 параненых. Пры адыходзе пасля бою партызаны сустрэлі групу праціўніка (30 гітлераўцаў), якая рухалася ад г. п. Капаткевічы на дапамогу да ст. Пціч, і знішчылі яе, захапілі зброю. У выніку П. а. 1942 рух па чыгунцы быў спынены на 18 сутак, а з улікам знішчэння моста цераз р. Лань 30.10.1942 (гл. *Сінкевіцкая аперацыя 1942*) рух па ёй перапыніўся больш як на 3 тыдні. За гэты час праціўнік змог бы прапусціць па гэтай дарозе ў бок фронту больш за 500 эшалонаў. Баявыя поспехі партызан аказалі вял. маральнае ўздзеянне на салдат славацкіх часцей, якія ахоўвалі чыгунку, і паскорылі пераход многіх з іх на бок нар. мсціўцаў. У снеж. 1942 славакі былі зняты з аховы чыгункі і заменены іншымі

падраздзяленнямі. У гонар баявой аперацыі партызан на будынку чыг. ст. Пціч у 1957 устаноўлена мемар. дошка. *М. У. Філімоненкаў.*

**ПШО́ННЫ** Сяргей Фаміч (н. 5.9.1922, в. Кушняроўка Чашніцкага р-на), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1942. На фронце з чэрв. 1941. Афіцэр разведкі ст. лейтэнант П. вызначыўся ў баях пры фарсіраванні Віслы на Пд ад Варшавы. 2.8.1944 на чале ўзвода разведкі пераправіўся цераз раку, знішчыў агнявыя кропкі на пярэднім краі абароны праціўніка, разбіў штаб зенітнага палка, захапіў афіцэраў з дакументамі і палкавы сцяг ворага, садзейнічаў пераправе двух палкоў. Жыве ў Днепрапятроўску.

**ПЫ́ЖЫКАЎ** Васіль Сямёнавіч (партыз. мянушкі Уладзіміраў, Стары; 15.12.1893, в. Ерашоўка Крупскага р-на — 28.2.1969), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1917. З 1917 у Чырв. гвардыі, камандзір атрада. Удзельнік грамадз. вайны, камандзір партыз. атрада на Беларусі. З 1919 у Чырв. Арміі, камісар палка, пам. камісара, камісар брыгады. З 1921 нам. камандзіра асобага батальёна партыз. злучэння на Далёкім Усходзе. З 1924 на парт. і гасп. рабоце. У партызанах з чэрв. 1942: камандзір атрада, у жн. 1942 — маі 1943 *партызанскай брыгады «Стары»*, у кастр.— снеж. 1942 чл. падп. міжрайпартцэнтра Барысаўскай зоны. У 1943 арыштаваны і да 1948 знаходзіўся ў турме. Рэабілітаваны ў 1955. У 1948—57 на гасп. рабоце ў Мінскай вобл. Чл. ЦК КП(б)Б у 1932—37. Яго імем названа вуліца ў г. Барысаве.

**ПЫЦЬКО́** Мікалай Піліпавіч (1921—23.1.1944), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсам.-маладзёжнага падполля і партыз. руху на тэр. Беластоцкай вобл. Чл. КПСС з 1944. Перад вайной жыў у Маскве. Са снеж. 1942 слухач спецшколы ЦК КП(б)Б, з лютага 1943 упаўнаважаны ЦК ЛКСМБ па Беластоцкай вобл., адначасова з чэрв. 1943 чл. *Беластоцкага падпольнага абкома ЛКСМБ*, з 1.11. 1943 сакратар *Беластоцкага падпольнага гаркома ЛКСМБ.* Правёў вял. работу па ўмацаванні камсам. арг-цый у партыз. фарміраваннях і камсам.-маладзёжнага падполля на тэр. Беластоцкай вобл. Загінуў у баі.

**ПЫШНЯ́НСКІЯ БАІ́ 1943,** гераічная абарона партызанамі в. Пышна Лепельскага р-на 19.5—9.6.1943, састаўная частка баёў партызан Мінскай і Віцебскай абл. супраць ням.-фаш. захопнікаў у час карнай аперацыі *«Котбус».* У канцы 1942 *партызанская брыгада Чашніцкая «Дубава»* разграміла ням. гарнізон у в. Пышна, стварыла там апорны пункт, устанавіла кантроль за чыгункай Лепель — Пышна — Докшыцы — Параф'янава, якая злучала ням. 3-ю танк. армію (камандзір ген.-палк. Рэйнгарт) з яе тыламі. Гітлераўцы без поспеху спрабавалі захапіць Пышна (снеж. 1942, студз. 1943).

19.5.1943 у 4 гадз раніцы вораг (1 полк) пачаў наступленне на в. Пышна. Яе абаранялі партыз. атрады М. М. Дзідзенкі, роты І. Ф. Карнеенкі, Б. П. Звонава і інш. падраздзяленні. Партызаны адбілі атакі праціўніка. Потым вораг пачаў бамбіць вёску і яе наваколле. 23 мая карнікі пачалі наступаць на Пышна з боку могілак і смалакурнага з-да. Партызаны ўвялі ў бой дадатковыя сілы (роты М. Клачкова, А. А. Суконькі і інш.), адбілі атакі ням. паліцэйскіх батальёнаў СС, знішчылі шмат гітлераўцаў, захапілі некалькі гармат і інш. зброі. Карнікі падцягнулі да вёскі новыя сілы, вялі разведку боем. Для ўмацавання абароны Пышна дадаткова былі вылучаны 4-ы партыз. атрад Чашніцкай («Дубава») брыгады, а таксама атрады партыз. брыгад імя С. М. Каротківа, імя Чапаева, імя Панамарэнкі, «Жалязняк» і імя ЦК КП(б)Б. Вакол в. Пышна былі створаны 2 кальцы абароны.

Раніцай 8 чэрв. пасля арт. падрыхтоўкі і бамбардзіроўкі, пры дымавой заслоне, вораг пры падтрымцы танкаў пачаў наступленне па ўсёй лініі абароны, у раён в. Зароўе высадзіў дэсант аўтаматчыкаў. Моцны ўдар праціўніка ў цэнтры абароны прыняў атрад Д. Л. *Місунова.* Мужна змагаліся атрад Д. Т. Караленкі, рота Г. І. Крацэнкі, узводы Н. Касых, Я. Сабаева і інш. Цяжкія баі ішлі па ўсёй лініі абароны Савін Дуб — Закалеўе — Пышна — Старынка — Навасёлкі. Каб пазбегнуць вял. страт, камандаванне партыз. брыгад вырашыла адысці. Выкарыстаўшы захопленую разведкай карту з планамі карнікаў, партызаны адарваліся ад ворага. Ням. аператыўная група «Норд» ген.-маёра Дорменега замкнула кальцо акружэння ляснога масіву Пышна — Пуцілкавічы — Лагі — Карчы— Лясіны. З 9 да 21 чэрв. ням. паліцэйскія войскі СС без поспеху прачэсвалі лес. Подзвіг абаронцаў в. Пышна стаў тэмай карціны «Бой за Пышна» партыз. мастака М. Абрыцьбы. *А. І. Валахановіч.*

**ПЯНЬКО́ЎСКІ** Валянцін Антонавіч (14. 4.1904, Магілёў — 26.4.1969), ген. арміі (1961). Чл. КПСС з 1926. У Чырв. Арміі з 1920. Удзельнік грамадз. вайны. У Айч. вайну на Паўд.-Зах., Сталінградскім, Данскім, Варонежскім, Ленінградскім, 1-м і 2-м Прыбалт., 1-м Далёкаўсх. франтах: нач. штаба ўпраўлення ППА фронту, нач. ППА арміі, камандзір дывізіі, нач. штаба арміі. Удзельнік Сталінградскай і Курскай бітваў, вызваленя Украіны, Беларусі (Віцебск, Полацк), разгрому японскіх агрэсараў. Пасля вайны нач. штабоў ваен. акруг. З 1961 камандуючы войскамі БВА. З 1964 нам. міністра абароны СССР, з 1968 у Групе генеральных інспектараў Мін-ва абароны СССР. Канд. у чл. ЦК КПСС з 1961. Чл. ЦК КПБ у 1961—66, канд. у чл. Прэзідыума ЦК КПБ у 1962—64. Дэп. ВС СССР з 1958, ВС БССР у 1963—67. Ганаровы грамадзянін г. Полацка.

**ПЯТАКО́ВІЧ** Аляксандр Францавіч (25.12.1914, г. Сянно — май 1988), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1940. З чэрв. 1941 на Зах., Бел. і 1-м Бел. франтах. Камандзір танк. ўзвода ст. лейтэнант П. вызначыўся ў баях за расшырэнне плацдарма на левым беразе Віслы. У час баявой разведкі 15.1.1945 узвод П. разграміў аўтакалону ворага, зайшоў у фланг яго артдывізіёна, знішчыў 2 бронетранспарцёры, 3 гарматы і захапіў 4 гарматы. Праследуючы ворага, заняў 2-ю палосу яго абароны, што садзейнічала поспеху наступлення. У баях ад Одэра да Берліна экіпаж танка П. знішчыў 8 танкаў, 9 гармат, 6 бронетранспарцёраў, 19 кулямётных кропак, узяў у палон 130 гітлераўцаў. Пасля вайны працаваў у г. п. Мар'іна Горка.

С. Ф. Пшонны. В. А. Пянькоўскі.



**ПЯ́ТАЯ А́РМІЯ.** Сфарміравана ў студз. 1941 у Кіеўскай асобай ваен. акрузе ў складзе 2 стралк. і 2 механіз. корпусаў і інш. часцей. У пач. вайны ў складзе Паўд.-Зах. фронту вяла абарончыя баі на дзярж. граніцы на Пд ад Брэста, пасля ў раёнах гарадоў Ковель, Дубна, Роўна, Жытомір і Карасцень. 20.9.1941 расфарміравана. У кастр. 1941 зноў сфарміравана на базе войск Мажайскага УР, уваходзіла ў склад Зах. фронту, вяла абарончыя і контрнаступальныя баі пад Масквой, вызваліла Мажайск, Гжацк і Вязьму, удзельнічала ў *Смаленскай аперацыі 1943.* З ліст. 1943 войскі арміі вялі наступальныя баі на аршанскім напрамку. З студз. 1944 армія перамясцілася ў раён на ПдУ ад Віцебска і да чэрв. 1944 вяла наступальныя баі на багушэўскім напрамку. У час *Беларускай аперацыі 1944* армія, якая налічвала 3 стралк. корпусы (9 дывізій), 2 танк. брыгады, 9 самаходных арт. палкоў і інш. часці, дзейнічала ў складзе 3-га Бел. фронту. Яе войскі паспяхова вялі наступленне ў *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944,* дзе вызначыліся 3-я гвардз.

арт. дывізія прарыву, 33-я зенітная арт. дывізія, 2-я гвардз. танк. брыгада, 63-я, 97-я, 159-я і 371-я стралк. дывізіі, якім былі нададзены ганаровыя найменні «Віцебскіх». Войскі арміі паспяхова дзейнічалі ў *Мінскай аперацыі 1944*, у *Вільнюскай аперацыі 1944*, за якую 144-й стралк. дывізіі і 22-й гвардз. пушачнай арт. брыгадзе былі нададзены ганаровыя найменні «Віленскіх», у Каунаскай аперацыі, дзе вызначыліся яе 65-ы і 72-і стралк. карпусы і 43-я мінамётная брыгада, удастоеныя ганаровых найменняў «Ковенскіх». У жн. 1944 злучэнні арміі першымі на 3-м Бел. фронце выйшлі на граніцу Усх. Прусіі. Армія ўдзельнічала ва Усх.-Прускай аперацыі і ў ліквідацыі варожай групоўкі на Зямландскім паўвостраве. 20.4.1945 армія выведзена ў рэзерв Стаўкі ВГК, перакінута на Далёкі Усход, дзе ў складзе войск 1-га Далёкаўсх. фронту ўдзельнічала ў разгроме Квантунскай арміі японскіх імперыялістаў. За мужнасць і гераізм, праяўленыя ў гады вайны, дзесяткі тысяч воінаў узнаг. ордэнамі і медалямі СССР, больш за 100 з іх прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Многія часці і злучэнні арміі ўзнаг. ордэнамі, ім нададзены ганаровыя найменні.

Камандуючы: ген.-маёр танк. войск М. І. Патапаў (чэрв. — вер. 1941), ген.-маёр Дз. Д. Лелюшэнка (кастр. 1941), ген.-маёр артылерыі, з 9.11.1941 ген.-лейт. артылерыі Л. А. Говараў (кастр. 1941 — крас. 1942), ген.-маёр., з 13.6. 1942 ген.-лейт. І. І. *Фядзюнінскі* (крас.— кастр. 1942), ген.-палк. Я. Ц. Чаравічэнка (кастр.. 1942 — люты 1943), ген.-лейт. В. С. Паленаў (люты — кастр. 1943), ген.-лейт., з 15.7.1944 ген.-палк. М. І. *Крылоў* (кастр. 1943 — кастр. 1944 і снеж. 1944 — да канца вайны), ген.-лейт. П. Р. Шафранаў (кастр.— снеж. 1944).

*М. І. Камінскі.*



А. Ф. Пятаковіч. А. А. Пятраеў.

**ПЯТАЯ ГВАРДЗЕЙСКАЯ ТАНКАВАЯ АРМІЯ.** Сфарміравана ў лют.— сак. 1943. У складзе Варонежскага і Сцяпнога франтоў удзельнічала ў *Курскай бітве 1943* і Белгарадска-Харкаўскай аперацыі, у складзе 2-га Укр. фронту — у вызваленні Украіны: фарсіраванне Дняпра, разгром груповак ворага ў раёнах Кіраваграда, Корсунь-Шаўчэнкаўскага і інш. З чэрв. 1944 армія ў складзе 3-га Бел. фронту ўдзельнічала ў *Беларускай аперацыі 1944*. У перыяд *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944* злучэнні і часці арміі (3-і гвардз. і 29-ы танк. карпусы і інш.) уведзены ў бай 25.6.1944 у паласе наступлення 5-й арміі; 28 чэрв. яны разграмілі ў раёне г. п. Крупкі высунутую насустрач узмоцненую 5-ю танк. дывізію ворага і 29 чэрв. выйшлі да р. Бярэзіна на Пн і Пд ад Барысава, фарсіравалі яе і сумесна з інш. злучэннямі вызвалілі Барысаў. Сумесна з інш. танк. і стралк. злучэннямі армія ўдзельнічала ў *Мінскай аперацыі 1944*, у якой вызначыліся 3-я, 18-я, 19-я гвардз. танк. брыгады, 2-я гвардз. мотастралк. брыгада, 1436-ы і 1496-ы самаходныя арт. палкі. 749-ы асобны знішчальны процітанк. арт. дывізіён, 266-ы мінамётны полк, 324-ы гвардз. мінамётны дывізіён рэактыўнай артылерыі і 10-ы асобны гвардз. матацыклетны батальён, якім былі нададзены ганаровыя найменні «Мінскіх». У баях за г. Маладзечна вызначыліся 689-ы армейскі знішчальны процітанкавы арт. полк, 409-ы гвардз. мінамётны дывізіён рэактыўнай артылерыі і 1-ы асобны гвардз. матацыклетны батальён, атрымаўшыя ганаровыя найменні «Маладзечанскіх». У перыяд *Вільнюскай аперацыі 1944* пры вызваленні Вільнюса вызначыліся 146-ы, 516-ы і 1062-і зенітныя арт. палкі танк. арміі, удастоеныя ганаровых найменняў «Віленскіх». Ва ўсіх гэтых аперацыях баявыя дзеянні арміі характарызаваліся рашучасцю і шырокім манеўрам. Воіны праявілі высокую мужнасць, адвагу, знаходлівасць і ініцыятыву. Са жн. 1944 армія дзейнічала ў складзе войск 1-га Прыбалт., 2-га і 3-га Бел. франтоў, удзельнічала ў Мемельскай, Усх.-Прускай і інш. аперацыях, вяла баі па ліквідацыі рэштак ням.-фаш. войск у вусці р. Вісла, дзе закончыла баявыя дзеянні. За гераізм, мужнасць і адвагу, праяўленыя ў баях з ням.-фаш. захопнікамі, больш за 38 тыс. воінаў арміі ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР, больш як 50 з іх прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Многія злучэнні і часці танк. арміі ўзнаг. ордэнамі, ім нададзены ганаровыя найменні.

Камандуючы: ген.-лейт. танк. войск, з кастр. 1943 ген.-палк. танк. войск, з лют. 1944 маршал бранятанк. войск П. А. *Ротмістраў* (люты 1943 — жн. 1944), ген.-лейт. танк. войск М. Дз. Саламацін (жн. 1944), ген.-лейт. танк. войск, з 26.10.1944 ген.-палк. танк. войск В. Ц. Вольскі (жн. 1944 — сак. 1945), ген.-маёр танк. войск М. Д. Сіненка (сак. 1945 — да канца вайны). У Барысаве каля моста цераз Бярэзіну ў 1960 ўстаноўлены помнік-танк на пастаменце ў гонар Герояў Сав. Саюза танкістаў 5-й арміі лейт. П. М. Рака, ст. сяржанта А. А. Пятраева і сяржанта А. І. Данілава, якія першымі ўварваліся ў горад у 1944 і нанеслі ворагу вял. страты. Іх імёнамі названы вуліцы горада.

*М. І. Камінскі.*

**ПЯТНАЦЦАТАЯ ПАВЕТРАНАЯ АРМІЯ.** Сфарміравана ў ліп. 1942 на базе часткі ВПС Бранскага фронту ў складзе 3 авіядывізій і 3 асобных авіяпалкоў. Удзельнічала ў баях на Доне, у Курскай бітве і Бранскай аперацыі. З кастр. 1943 у складзе 2-га Прыбалт. фронту падтрымлівала наступальныя дзеянні войск фронту на віцебскім напрамку. У ліп. 1944 у складзе арміі 214-я (ген.-маёр авіяцыі С. У. Рубанаў) і 225-я (палк. В. А. Корпусаў) штурмавыя, 315-я знішчальная (палк. В. Я. Літвінаў), 284-я (палк. І. А. Трушкін) і 313-я (палк. А. А. Ваяводзін) начныя бамбардзіровачныя, 5-я гвардз. бамбардзіровачная (ген.-маёр авіяцыі У. А. Сандалаў) і інш. авіяц. дывізіі і часці. Частка іх была аб'яднана ў 11-ы мяшаны (ген.-маёр авіяцыі С. П. Данілаў) і 5-ы гвардз. бамбардзіровачны (ген.-лейт. авіяцыі В. А. Ушакоў) авіяц. карпусы. У перыяд *Рэжыцка-Дзвінскай аперацыі 1944* П. п. а. ўдзельнічала ў вызваленні Расонскага, Дрысенскага і Асвейскага р-наў БССР, Рэжыцы (Рэзекне), Даўгаўпілса (Дзвінска) і інш. гарадоў Латвійскай ССР. У час прарыву добра ўмацаванага раёна абароны ворага — т. зв. лініі «Пантэра» ў Асвейскім р-не ў ліп. 1944 часці арміі падтрымлівалі дзеянні наземных войск, наносілі бомбавыя і штурмавыя ўдары па вял. групоўках войск, агнявых пазіцыях артылерыі, па чыг. вузлах і аэрадромах ворага. У вер.— кастр. 1944 армія прымала ўдзел у вызваленні Латвіі і яе сталіцы Рыгі. У 1945 у складзе 2-га Прыбалт., з крас.— Ленінградскага франтоў армія ўдзельнічала ў ліквідацыі курляндскай групоўкі ням.-фаш. войск. За гады вайны армія зрабіла каля 160 тыс. самалётавылетаў. 19975 воінаў арміі ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР, 72 лётчыкам прысвоена званне Героя Сав. Саюза, 2 з іх удастоены гэтага звання двойчы.

Камандуючы: ген.-маёр авіяцыі І. Г. Пятыхін (ліп. 1942 — май 1943), ген.-лейт. авіяцыі М. Ф. Навуменка (май 1943 — да канца вайны).

*М. І. Камінскі.*

**ПЯТРАЕЎ** Аляксандр Акімавіч (22.11. 1925, в. Галакціёнава Краснатуранскага р-на Краснаярскага краю — 30.6 (1944), Герой Сав. Саюза (1945). На фронце з 1944. Механік-вадзіцель танка «Т-34» ст. сяржант П. вызначыўся 30.6.1944 пры вызваленні Барысава. Экіпаж танка ў складзе П. М. *Рака*, А. І. *Данілава* і П. прарваўся ў заняты ворагам горад, 17 гадз вёў бой, разграміў камендатуру, штаб, падбіў 2 танкі, вызваліў 200 ваеннапалонных. Экіпаж згарэў у танку. Пахаваны ў Барысаве. Навечна залічаны ў спісы танк. часці. У Барысаве яго імем названа вуліца, пастаўлены помнік экіпажу.

**ПЯТРО́Ў** Васіль Аляксеевіч (1906, Масква — 22.10.1967), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Брэсцкай вобл. Чл. КПСС з 1926. З 1924 на камсам., гасп. і сав. рабоце. З 1941 у Чырв. Арміі. У партызанах з чэрв. 1942: камісар атрада, у снеж. 1943 — ліп. 1944 *партызанскай брыгады 8-й,* адначасова ў чэрв.— ліп. 1944 сакратар Камянецкага падп. РК КП(б)Б. У 1944—54 на парт. рабоце ў Брэсцкай вобл.

**ПЯТРО́Ў** Георгій Сяргеевіч (н. 26.5. 1903, г. Кінгісеп Ленінградскай вобл.), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1925. З 1930 на гасп. і парт. рабоце. У партызанах з крас. 1942, у кастр. 1942 — жн. 1943 камісар *партызанскай брыгады 4-й Беларускай,* адначасова ў чэрв. 1942 — ліст. 1943 сакратар, 2-і сакратар Полацкага падп. РК КП(б)Б. Да 1974 на парт. і гасп. рабоце ў Полацку.

**ПЯТРО́Ў** Іван Яўхімавіч (30.9.1896, г. Трубчэўск Бранскай вобл.— 7.4. 1958), ген. арміі (1944), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1918. У Чырв. Арміі з 1918. Скончыў ваен. вучылішча (1917), курсы ўдасканалення камсаставу (1926, 1931). Удзельнік грамадз. вайны. У Айч. вайну на фронце з чэрв. 1941: камандзір дывізіі, камандуючы арміяй, Чарнаморскай групай войск, Паўн.-Каўказскім фронтам. Адзін з кіраўнікоў абароны Адэсы, Севастопаля. У сак.— крас. 1944 камандуючы *трыццаць трэцяй арміяй* Зах. фронту, у крас.— жн. 1944 — *Беларускім фронтам 2-ім* (другога фарміравання), потым — 4-м Укр. фронтам, з крас. 1945 нач. штаба 1-га Укр. фронту. Войскі пад камандаваннем П. за паспяховыя баявыя дзеянні ў гады вайны 22 разы адзначаліся ў загадах ВГК. Пасля вайны на камандных пасадах у Сав. Арміі. Дэп. ВС СССР у 1946—58.

**ПЯТРО́ЎСКІ** Леанід Рыгоравіч (12.6. 1902, г. п. Шчарбінаўка Дзяржынскага гарсавета Данецкай вобл.— 17.8.1941), ген.-лейтэнант (1941). Чл. КПСС з 1916. З чэрв. 1917 у Чырв. гвардыі, з 1918 у Чырв. Арміі. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Акадэмію РСЧА (1922). У 1937 камандзір корпуса ў БВА. Чл. ЦК КП(б)Б у 1937—38. У Айч. вайну камандаваў 63-м стралк. корпусам, які ў ліп.— жн. 1941 правёў *Рагачоўска-Жлобінскую аперацыю 1941.* П. загінуў у баі каля в. Скепня, пахаваны ў в. Старая Рудня Жлобінскага р-на. Імем П. названы вуліцы ў г. Жлобін і в. Старая Рудня, яго імя прысвоена сярэдняй школе ў в. Старая Рудня.

**ПЯ́ТЫ ПЛЕ́НУМ ЦК КП(Б)Б 1943,** гл. *Лютаўскі Пленум ЦК КП(б)Б 1943.*

**«ПЯ́ТЫ ПОЛК»** (шталаг № 313), канцэнтрацыйны лагер, створаны ням.-фаш. акупантамі ў вер. 1941 на паўн.-зах. ускраіне Віцебска для масавай загубы цывільных сав. людзей і ваеннапалонных.

Тэрыторыя б. ваен. гарадка 5-га чыг. палка была абгароджана калючым дротам. Да восені 1943 у лагеры трымалі сав. ваеннапалонных, якіх бязлітасна катавалі, марылі голадам, знясіленых расстрэльвалі, потым туды знявольвалі грамадзян горада і навакольных вёсак, схопленых у час аблаў. Праз лагер прайшло больш за 150 тыс. чал., з іх загублена больш за 80 тыс. На тэр. лагера помнік ахвярам фаш. тэрору.

**ПЯЦІДЗЕСЯ́ТАЯ А́РМІЯ.** Сфарміравана ў жн. 1941 у складзе Бранскага фронту на базе 2-га стралк. корпуса. Спачатку ў яе ўваходзілі 8 стралк., 1 кав. дывізіі і інш. часці. У складзе Бранскага і Зах франтоў удзельнічала ў абароне Тулы, вызваленні Калугі, у абарончых баях пад Юхнавам, у 1943 у Ржэўска-Вяземскай, Арлоўскай і Смаленскай аперацыях. З жн. 1943 у складзе *Бранскага фронту 1943* удзельнічала ў *Бранскай аперацыі 1943,* у выніку якой яе злучэнні ўступілі на тэр. Беларусі: 26 вер. вызвалілі Хоцімск, да 8 кастр. выйшлі на р. Проня на ўчастку Пятухоўка — Прапойск (Слаўгарад) і захапілі плацдарм на яе правым беразе. З 10 кастр. армія ў складзе Цэнтр., з 20 кастр.— Бел. франтоў удзельнічала ў *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943,* у ходзе якой войскі 25 ліст. выйшлі да Дняпра ў раёне Новага Быхава. У снеж. 1943 войскі арміі вялі наступальныя баі і выйшлі на рубеж Юшкевічы — Давыдавічы — Трылесіна — Хачынкі (за 22 км на У ад Быхава). З студз. 1944 армія ў складзе 1-га Бел., з крас. 1944 — 2-га Бел. франтоў. Яе войскі (19-ы, 38-ы і 121-ы стралк. карпусы, 307-я стралк. дывізія, шэраг танк., арт. і інш. злучэнняў і часцей) у чэрв.— жн. 1944 удзельнічалі ў *Беларускай аперацыі 1944* і паказалі пры гэтым высокае баявое майстэрства, мужнасць і адвагу. Пераадолеўшы жорсткае супраціўленне ням.-фаш. войск, злучэнні арміі з баямі прайшлі больш за 500 км, вызвалілі шмат населеных пунктаў, у т. л. ва ўзаемадзеянні з інш. арміямі гарады Магілёў, Быхаў (28 чэрв.), Навагрудак (8 ліп.), Гродна (16 ліп.), і да канца жн. выйшлі на р. Нараў (гл. *Магілёўская аперацыя 1944, Беластоцкая аперацыя 1944*). У баях за Дняпро вызначыліся 110-я, 324-я і 362-я стралк. дывізіі арміі, якім былі нададзены ганаровыя найменні «Верхнедняпроўскіх» (10.7.1944), і 1830-ы цяжкі самаходны арт. полк, удастоены ганаровага наймення «Магілёўскага» (10.7.1944). У 1945 войскі арміі ў складзе 2-га Бел., з лютага — 3-га Бел. франтоў удзельнічалі ва Усх.-Прускай аперацыі і штурме Кёнігсберга. Баявыя дзеянні армія закончыла выхадам на ўзбярэжжа заліва Фрышас-Хаф (цяпер Віслінскі заліў). За мужнасць, адвагу і баявое майстэрства дзесяткі тысяч воінаў арміі ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР, 85 з іх прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Многія злучэнні і часці арміі ўдастоены ордэнаў і ганаровых найменняў.

Камандуючыя: ген.-маёр М. П. Пятроў (жн.— кастр. 1941), палк. А. М. Ермакоў (кастр.— ліст. 1941), ген.-лейт., з 15. 7.1944 ген.-палк. І. В. *Болдзін* (ліст. 1941 — люты 1945), ген.-лейт. Ф. П. Озераў (люты 1945 — да канца вайны).

*М. І. Камінскі.*

Л. Р. Пятроўскі. С. В. Пяцялін.



**ПЯЦЯ́ЛІН** Сяргей Васілевіч (4.10. 1925, с. Чыгарова Арамашаўскага р-на Цюменскай вобл.— 30.6.1944), Герой Сав. Саюза (1945). На фронце з 1943. Разведчык яфрэйтар П. вызначыўся пры вызваленні Беларусі. 30.6.1944 каля в. Акцябр Асіповіцкага р-на, ратуючы акружаных байцоў, уступіў у бой з 50 гітлераўцамі. Калі скончыліся патроны, гранатай падарваў сабе і групу ворагаў. У с. Чыгарова яго імем названа вуліца, пастаўлены абеліск.



**РАБУ́ХА** Іван Майсеевіч (27.2.1919, с. Краснае Данецкай акр. Вобл. войска Данскога — 20.8.1952), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1943. Скончыў Варашылаўградскі машынабудаўнічы тэхнікум (1938). З 1939 у Чырв. Арміі. У партызанах з мая 1942: камандзір узвода, камісар атрада, *партызанскай брыгады «Буравеснік»* Мінскай вобласці. З верасня 1944 на гасп. рабоце ў Бабруйску.

**РА́БЦАЎ** Міхаіл Яўсеевіч (н. 4.6. 1923, Барысаў), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Ваенна-паветр. акадэмію (1955). З 1943 на Калінінскім, Сцяпным, Зах., Бранскім, 1-м Прыбалт., 3-м

Бел., 1-м Укр. франтах. Удзельнік Курскай бітвы, вызвалення Беларусі (Оршы, Віцебска, Барысава, Мінска), Літвы, баёў ва Усх. Прусіі, Германіі і Чэхаславакіі. Камандзір звяна знішчальнага авіяпалка ст. лейтэнант Р. за гады вайны зрабіў 147 баявых вылетаў, збіў у паветраных баях 15 самалётаў, у штурмавых дзеяннях на

М. Я. Рабцаў. А. М. Рабцэвіч.



зямлі знішчыў 3 самалёты праціўніка, 27 аўтамашын і больш за 200 гітлераўцаў. Ваяваў у складзе эскадрыллі «Мангольскі Арат». Да 1975 у Сав. Арміі, палкоўнік. Працуе інжынерам-канструктарам.

**РА́БЦАЎ** Пётр Сяргеевіч (1915, г. Макееўка Данецкай вобл.— 31.7.1941), удзельнік баёў на Беларусі, лётчык-знішчальнік. Чл. КПСС з 1940. З 1934 у Чырв. Арміі, скончыў авіяц. школу лётчыкаў, камандзір звяна. Раніцай 22.6.1941 лейтэнант 123-га авіяпалка Р. з трыма інш. лётчыкамі ўступіў у паветр. бой з 8 варожымі самалётамі ў р-не Брэста. Калі скончыліся боепрыпасы, тараніў самалёт ворага, сам выкінуўся на парашуце. Загінуў у баі на Ленінградскім фронце. Яго імем названа вуліца ў Брэсце.

**РАБЦЭ́ВІЧ** Аляксандр Маркавіч (14.3. 1898, в. Лазавая Буда, Кіраўскі р-н — 11.4.1961), адзін з кіраўнікоў партыз. руху на Беларусі, Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1939. У Чырв. Арміі з 1918. Скончыў школу камсаставу Чырв. Арміі (1920). Удзельнік грамадз. вайны, нац.-рэв. вайны ў Іспаніі 1936—39. У Айч. вайну на фронце з 1941, удзельнік абароны Масквы, камандзір роты асобнай мотастралк. брыгады асобага прызначэння. З ліп. 1942 камандзір дыверсійнага *партызанскага атрада «Храбрацы»*. У 1945—52 у органах Дзяржбяспекі БССР. Яго імем названа вуліца ў г. п. Кіраўск.

**РАБЧЭ́ЎСКІ** Міхаіл Фёдаравіч (3.1. 1912, в. Балешын Клімавіцкага р-на — 31.3.1979), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1938. Скончыў Магілёўскі мед. тэхнікум (1932), Сталінградскую ваен. школу лётчыкаў (1936). Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. З 1941 на Паўн.-Зах., Сталінградскім, Паўд., Паўн.-Каўказскім, 4-м Укр., 1-м, 2-м і 3-м Прыбалт. франтах: камандзір эскадрыллі штурмавікоў, штурман палка, дывізіі, камандзір штурмавога авіяпалка. Зрабіў 192 баявыя вылеты. Знішчыў 5 варожых самалётаў у паветры і 20 на зямлі. Да 1956 у Сав. Арміі, палкоўнік, пасля на адм.-гасп. рабоце. Яго імем названа вуліца ў г. Клімавічы.

**РАГАЧО́Ў**, горад, цэнтр Рагачоўскага р-на, прыстань на правым беразе Дняпра, за 2 км ад зліцця з ім р. Друць. За 121 км на ПнЗ ад Гомеля, чыг. станцыя на лініі Магілёў — Жлобін, на аўтадарозе Бабруйск — Крычаў. З 1924 цэнтр раёна. 15,2 тыс. жыхароў у 1939. Захоплены праціўнікам 3.7.1941. Вызвалены 13.7.1941 воінамі 167-й стралк. дывізіі (камбрыг В. С. Ракоўскі) 63-га стралк. корпуса (камкор Л. Р. *Пятроўскі*) 21-й арміі Зах. фронту ў ходзе *Смаленскай бітвы 1941*. У выніку контрудару 63-і стралк. корпус адкінуў праціўніка на З больш як на 30 км, вызваліў Жлобін і Р. Больш як на месяц было спынена наступленне захопнікаў на Гомельскім напрамку (гл. *Рагачоўска-Жлобінская аперацыя 1941*). 14.8.1941 акупіраваны другі раз ням.-фаш. захопнікамі, якія за час акупацыі знішчылі ў горадзе 3,5 тыс. чал., у Р. і раёне — 6353 чал. Дзейнічалі Рагачоўскія падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ (15.8.1941—28.6.1944), парт.-камсам. падполле, партыз. брыгады 8-я Рагачоўская, 11-я Быхаўская, 10-я Журавіцкая, партыз. палкі 252-і, 255-ы, 425-ы, 537-ы і 810-ы, асобныя партыз. атрады 225-ы, 252-і, 257-ы, 258-ы, 259-ы, 435-ы, 830-ы, імя Катоўскага, у сак. 1944 створана *Рагачоўская ваенна-аператыўная група*. Выдавалася падп. газ. *«Камунар»*. Вызвалены 24.2.1944 воінамі 120-й гвардз. стралк. дывізіі (палк. Я. Я. *Фогель*) 41-га стралк. корпуса, 169-й стралк. дывізіі (палк. Ф. А. Вяроўкін) 35-га стралк. корпуса, 40-й знішчальна-процітанк. арт. брыгады (палк. С. А. Нікіцін), 13-й зенітнай арт. дывізіі (палк. У. М. Качубей), 2-га штурмавога інж.-сапёрнага батальёна (палк. М. П. Воранаў) 3-й арміі, часткаю сіл 2-й гвардз. штурмавой авіяц. дывізіі (палк. Г. І. Камароў), 282-й знішчальна-авіяц. дывізіі (палк. Ю. М. Беркаль) 6-га змешанага авіяц. корпуса, 283-й знішчальна-авіяц. дывізіі (палк. С. М. Чырва), 241-й бамбардзіровачнай авіяц. дывізіі (палк. І. Р. Курыленка) 3-га бамбардзіровачнага авіяц. корпуса, 271-й начной бамбардзіровачнай авіяц. дывізіі (палк. М. Х. Барысенка) 16-й паветр. арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе *Рагачоўска-Жлобінскай аперацыі 1944*. 13 вайсковым часцям і злучэнням нададзены ганаровыя найменні «Рагачоўскіх» (гл. *Рагачоўскія вайсковыя злучэнні і часці*). У Р. вайсковыя могілкі, 2 брацкія магілы сав. воінаў, 2 магілы ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі; помнік Вызвалення; курган Славы. Працуе музей нар. славы. *У. М. Якубоўскі.*

**РАГАЧО́ЎСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала са жн. 1941 да ліп. 1944 у Рагачове і раёне пад кіраўніцтвам Рагачоўскіх падп. райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ. Складалася з 17 арг-цый, якія налічвалі больш за 160 чал., у т. л. 21 камуніста і 108 камсамольцаў. У горадзе дзейнічалі 2 падп. камсамольскія арг-цыі: тэрытарыяльная (кіраўнік М. Я. Данілава) і на лесазаводзе (кіраўнік камуніст К. К. Гардзіеўскі). На тэр. раёна ў розны час дзейнічала 11 падп. камсамольскіх арг-цый: 3 у в. Турск (кіраўнікі: А. А. Ганчароў, В. Ф. Ярмоленка, Л. А. Кудраўцава), у пас. Дняпроўск (Г. А. Фядосава), в. Забалацце (В. К. Парфёнава), пас. Масткі (М. С. Філіпаў), в. Слабада (А. А. Канавалава), в. Станькаў (У. Я. Крапіцкая), в. Церахоўка (У. Ф. Мазепіна), в. Філіпкавічы (Р. П. Лукашэвіч), в. Гадзілавічы (І. В. Гранкова), в. Красніца (А. І. Шукевіч), пас. Лавы (Ф. Р. Сідарэнка), в. Азяраны (А. К. Мальцаў), на ст. Салтанаўка Жлобінскага р-на (В. А. Ашмянскі і У. В. Лабачоў). Групы мелі явачныя кватэры ў пас. Дубрава (М. Я. Бардуленка), в. Ходасавічы (П. А. Купрэеў) і інш. З мэтай аператыўнага кіраўніцтва падполлем РК ЛКСМБ у маі 1942 замацаваў членаў райкома С. М. Свярдлова, І. Ц. Зуевіча, К. М. Драчова за асобнымі зонамі раёна. Сакратар Рагачоўскага падп. РК ЛКСМБ А. А. *Бірукоў* каардынаваў дзейнасць падп. камсамольскіх арг-цый і груп. Падпольшчыкі вялі прапагандысцкую работу сярод насельніцтва, за 2 гады здабылі і перадалі партызанам 4 мінамёты, 24 кулямёты, 263 вінтоўкі, 750 гранат, 450 кг узрыўчаткі, больш за 100 тыс. патронаў, разам з партызанамі ўдзельнічалі ў дыверсіях на чыгунцы. М. Н. Маркаў запісваў зводкі Саўінфарбюро, якія падпольшчыкі распаўсюджвалі ў горадзе ў выглядзе лістовак. Сярод жыхароў навакольных вёсак лістоўкі распаўсюджвала В. А. Гаўрыленка. Зімой 1943 М. Я. Данілава з дапамогай інш. падпольшчыкаў пераправіла да партызан зубных урачоў і арганізавала вываз абсталявання зубаўрачэбнага кабінета. У дыверсіях на чыгунцы актыўна ўдзельнічалі падпольшчыкі Л. Л. Байдакова, Н. С. Бялян, браты А. Р. і М. Р. Жданавы, Л. М. Мацкоў, К. І. Ясянецкая. Члены арг-цыі в. Станькаў Ф. Р. Каморнікаў, М. В. Хуркоў і А. С. Парахневіч зімой 1942 двойчы ўзрывалі чыгунку. Інжынер А. С. Каратаеў вывеў са строю водаправодную сістэму, якая забяспечвала вадой чыг. станцыю і тэр. былога ваен. гарадка, дзе размяшчаўся гарнізон праціўніка. Падпольшчыкі Л. Я. Данілава, А. А. Чарнавусава, М. П. Дойлідаў рэгулярна выводзілі

са строю сянныя прэсы; падпольшчыкі лесазавода рабілі дыверсіі на помпавай станцыі, псавалі матбры. Летам 1943 П. В. Чэвушаў падарваў на ст. Рагачоў матавоз і 5 вагонаў з гаручым, у вер. там жа знішчыў усю дзеючую і запасную апаратуру сувязі (больш за 50 тэлефонных і тэлеграфных апаратаў). У крас. 1943 Філіпаў, П. С. Назараў і В. І. Падольцаў забяспечылі партызанам поспех у баі з ням. гарнізонам в. Гадзілавічы. Падпольшчыкі Сідарэнка, Фядосава, Д. А. Шолахаў і інш. аказвалі дапамогу партызанам і разведгрупам Чырв. Арміі зборам інфармацыі аб перадыслакацыі вайсковых часцей, аб чыг. і аўтамабільных перавозках праціўніка.

У барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі загінулі: М. А. Бондараў, П. А. Купрэеў, В. І. Кухарэнка, В. І. Падольцаў, Ф. Н. Рудзянкоў, Ю. І. Слязенка, І. М. Шабеткін, В. Д. Шолахаў, У. І. Юшкевіч, В. А. Янава.

*М. Ф. Шумейка.*

**РАГАЧО́ЎСКА-ЖЛО́БІНСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1941** (контрудар на Рагачоўска-Жлобінскім напрамку), праведзена 63-м стралк. корпусам (камкор Л. Р. *Пятроўскі*) 21-й арміі Зах. (з 24.7.1941 Цэнтр.) фронту 13 ліп.— 17 жн.; састаўная частка *Смаленскай бітвы 1941*. Корпус [117-я (да 7 ліп.), 154-я, 167-я, 61-я стралк. дывізіі, 387-ы, 503-і і 318-ы гаўбічныя артпалкі] займаў абарону на ўсх. беразе Дняпра на рубяжы Збараў — Гадзілавічы — Рагачоў — Жлобін — Стрэшын працягласцю 70 км. 6 ліп. часці 117-й дывізіі правялі разведку боем, у час якой авалодалі Жлобінам і прасунуліся на ПнЗ уздоўж Бабруйскай шашы; пад націскам праціўніка, які тэрмінова падцягнуў на гэты напрамак матарызаваную і пяхотную дывізіі, адышлі на зыходныя рубяжы, нанеслі ў жорсткіх баях праціўніку вял. страты ў жывой сіле і тэхніцы і сарвалі разлікі камандавання ням. групы армій «Цэнтр» з ходу фарсіраваць Днепр на гэтым участку фронту. 12 ліп. камандуючы Зах. фронтам Маршал Сав. Саюза С. К. *Цімашэнка* загадаў 21-й арміі сіламі 63-га і 66-га (ген.-м. Ф. Дз. Рубцоў) стралк. карпусоў нанесці контрудары на Бабруйскім напрамку, 67-му стралк. корпусу (камбрыг П. Ф. Жмачэнка) наступаць ад Збарава ўздоўж Дняпра на Пн з мэтай знішчыць групоўку ворага, якая прарвалася ў раёне Быхава. 13 ліп. войскі 21-й арміі перайшлі ў контрнаступленне. 63-і корпус фарсіраваў Дняпро, вызваліў Жлобін, Рагачоў і развіў наступленне на Бабруйск. К канцу ліпеня корпус уклініўся да 30 км у размяшчэнне ворага. Праціўнік кінуў супраць яго 8 дывізій. 14 жн. ням. войскі прарвалі абарону і зайшлі ў тыл корпуса. Па загаду ваен. савета фронту з 17 жн. часці корпуса з баямі выходзілі з акружэння ў напрамку Гомеля.

У аперацыі разам з сав. войскамі ўдзельнічалі байцы Жлобінскага (камандзір В. А. Міронаў) і Рагачоўскага (Н. Г. Каліноўскі) знішчальных батальёнаў. Створаныя ў Жлобіне і Жлобінскім р-не групы нар. апалчэння вялі разведку ў тыле ворага, удзельнічалі ў баях. У выніку Р.-Ж. а. ворагу нанесены значныя страты, затрымана яго прасоўванне на У.

*У. І. Лемяшонак.*

**РАГАЧО́ЎСКА-ЖЛО́БІНСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1944,** наступальная аперацыя войск правага крыла 1-га Бел. фронту (ген. арміі К. К. *Ракасоўскі*) 21—26 лютага.

Удзельнічалі арміі: 3-я (ген.-лейт. А. В. *Гарбатаў*), частка сіл 50-й (ген.-лейт. І. В. *Болдзін*) і 48-й (ген.-лейт. П. Л. *Раманенка*), 16-я паветр. (ген.-лейт. авіяцыі С. І. *Рудэнка*). Мэта аперацыі — разграміць групоўкі праціўніка ў раёне Рагачова, Жлобіна і стварыць спрыяльныя ўмовы для наступлення на бабруйскім напрамку. Войскам фронту процістаяла 9-я армія ням.-фаш. групы армій «Цэнтр», якая займала падрыхтаваную абарону (2 умацаваныя палосы), у моцныя вузлы супраціўлення былі ператвораны Рагачоў і Жлобін. Галоўная роля надавалася 3-й арміі, якая павінна была нанесці ўдар з Пн у абход Рагачова, авалодаць ім і развіваць наступленне на Бабруйск.




РАГАЧОЎСКА–ЖЛОБІНСКАЯ АПЕРАЦЫЯ 21—26 лютага 1944 г.

21 лют. войскі 3-й арміі перайшлі ў наступленне, на працягу 2 дзён прарвалі абарону праціўніка, фарсіравалі па лёдзе р. Дняпро, перарэзалі чыгунку Магілёў — Рагачоў, 23 лют. выйшлі на подступы да Рагачова з ПнУ і ПдУ. Камандаванне групы армій «Цэнтр» падцягнула да Рагачова 5-ю танк. дывізію, частку сіл 4-й танк. дывізіі, з-пад Віцебска — 20-ю танк. дывізію. Адбіўшы контратакі праціўніка, войскі 3-й арміі ноччу 24 лют. штурмам вызвалілі Рагачоў, на Пн ад яго прасунуліся да р. Друць, захапілі на правым беразе Дняпра паміж Новым Быхавым і Рагачовам плацдарм каля 60 км па фронту і да 25 км у глыбіню, ліквідавалі на Пд ад Рагачова плацдарм праціўніка на левым беразе Дняпра і выйшлі на подступы да Жлобіна. Войскі 50-й арміі, падтрымліваючы з Пн наступленне 3-й арміі, перайшлі ў наступленне 22 лют. левафланговымі злучэннямі і ў ходзе ўпартых баёў авалодалі невял. плацдармам. Далейшага развіцця аперацыя не атрымала. 26 лют. войскі правага крыла фронту перайшлі да абароны. У выніку Р.-Ж. а. сав. войскі нанеслі сур'ёзнае паражэнне 9-й арміі праціўніка, стварылі ўмовы для наступлення на бабруйскім напрамку. 13 злучэнняў і часцей атрымалі ганаровыя найменні «Рагачоўскіх» (гл. *Рагачоўскія вайсковыя злучэнні і часці*).

**РАГАЧО́ЎСКАЯ ВАЕ́ННА-АПЕРАТЫ́ЎНАЯ ГРУ́ПА,** Рагачоўская ВАГ, Ваенна-аператыўная група пры Рагачоўскім падпольным райкоме КП(б)Б, партыз. злучэнне на акупіраванай тэр. Клічаўскага, Кіраўскага, Бярэзінскага, Крупскага р-наў, таксама назва органа кіраўніцтва гэтым злучэннем.

Створана 12.3.1944 у Клічаўскім р-не на базе партыз. палка 255-га і атрадаў 252, 257, 259-га расфарміраванай *партызанскай брыгады 8-й Рагачоўскай*. Кіраўніцтва ВАГ: сакратар падп. РК КП(б)Б І. Ц. Зуевіч, камандзір В. В. Чысцякоў, нач. штаба М. Ф. Рубіс. 27 і 28.6.

1944 ВАГ (2305 партызан) злучылася з Чырв. Арміяй.

**РАГАЧО́ЎСКАЯ СТРАЛКО́ВАЯ ДЫВІ́ЗІЯ** гвардзейская Чырванасцяжная, ордэнаў Суворава і Кутузава. Сфарміравана ў Сібірскай ваен. акрузе ў сак.— маі 1942 як 308-я стралк. дывізія ў складзе 3 стралк. і 1 арт. палкоў і інш. часцей. 10.9.1942 пачала баявыя дзеянні, удзельнічала ў Сталінградскай бітве, узнаг. ордэнам Чырв. Сцяга (19.6.1943). З мая 1943 у складзе 3-й арміі ўдзельнічала ў Арлоўскай наступальнай аперацыі, вызваленні Арла, у Бранскай наступальнай аперацыі. За мужнасць і гераізм пераўтворана ў 120-ю гвардз. стралк. дывізію (23.9.1943). З канца вер. 1943 дывізія вяла наступальныя баі ва ўсх. раёнах Беларусі, у ходзе якіх ва ўзаемадзеянні з 283-й стралк. дывізіяй вызваліла г. Касцюковічы (28 вер.), фарсіравала рэкі Проня (25 кастр.), Сож (23 ліст.) і ў пач. снеж. выйшла на левы бераг Дняпра ў раёне Свержаня (18 км на ПнУ ад Рагачова). У 2-й палове лют. 1944 дывізія фарсіравала Дняпро і ва ўзаемадзеянні з інш. злучэннямі 3-й арміі прарвала добра ўмацаваную абарону ням.-фаш. войск і вызваліла Рагачоў (24 лют.). Вызначылася ў гэтых баях і атрымала ганаровае найменне «Рагачоўскай» (26.2.1944). У *Беларускай аперацыі 1944* дывізія ў складзе 3-й арміі 1-га Бел. фронту ўдзельнічала ў прарыве глыбока эшаланіраванай абароны ворага на ПнУ ад Бабруйска, акружэнні яго буйной групоўкі ў раёне горада (гл. *Бабруйская аперацыя 1944*) і развіцці наступлення на Навагрудак і Ваўкавыск. 27.7.1944 удзельнічала ў штурме Беластока. Усе палкі дывізіі вызначыліся ў гэтых баях і атрымалі ганаровыя найменні «Беластоцкіх» (9.8.1944). Дывізія вызначылася ва Усх.-Прускай аперацыі, узнаг. ордэнамі Кутузава II ступені (5.4.1945) і Суворава II ступені (26.4.1945). Злучэнне ўдзельнічала ў Берлінскай аперацыі. За мужнасць, адвагу і гераізм у баях з ням.-фаш. захопнікамі больш за 18 тыс. воінаў дывізіі ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР, 8 з іх прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

Камандзіры: палк., з 7.12.1942 ген.-маёр Л. М. Гурцьеў (сак. 1942 — жн. 1943), палк., з 22.9.1943 ген.-маёр М. К. Масленікаў (жн. — ліст. 1943), палк., з 3.6.1944 ген.-маёр Я. Я. *Фогель* (ліст. 1943 — ліп. 1944), палк., з 20.4.1945 ген.-маёр П. С. Цёлкаў (ліп.— вер. 1944 і снеж. 1944 — да канца вайны), ген.-маёр М. А. Мікіцін (вер.— снеж. 1944). Пасля вайны дывізія пераўтворана ў мотастралковую, ёй прысвоена імя ВС БССР (1967). *М. І. Камінскі.*

**РАГАЧО́ЎСКІ МУЗЕ́Й НАРО́ДНАЙ СЛА́ВЫ.** Адкрыты ў 1970 (з 1962 гісторыка-краязнаўчы музей на грамадскіх асновах). Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, мае пл. 29 м². Экспануюцца матэрыялы пра абарончыя баі на тэр. раёна ў ліп.— жн. 1941, пра *Рагачоўска-Жлобінскую аперацыю 1941* (схема контрудара 63-га стралк. корпуса, фатаграфіі баёў пад Рагачовам, воінаў, што найбольш вызначыліся, у т. л. камандзіраў 63-га корпуса ген.-лейт. Л. Р. *Пятроўскага,* 61-й стралк. дывізіі ген.-лейт. М. А. Прышчэпы, палкавога камісара М. Ф. Воранава і інш.). Матэрыялы пра ўзнікненне і разгортванне падполля і партыз. руху ў раёне: фатаграфіі сакратароў Гомельскага падп. абкома КП(б)Б Героя Сав. Саюза І. П. *Кожара,* А. А. *Куцака,* сакратароў Рагачоўскіх падп. РК КП(б)Б і ЛКСМБ С. М. Свярдлова, І. Ц. Зуевіча, А. А. Бірукова, М. Ф. Шабеткіна і інш., падп. газ. *«Камунар»,* партыз. баявыя лісткі, мед. інструменты, партыз. пошта, лапа і разводны ключ для дыверсій на чыгунках, карта размяшчэння партыз. атрадаў на тэр. раёна, схема Лазоўскага бою 29.4.1943, асабістыя рэчы, прадметы побыту, зброя, узнагароды, фатаграфіі партызан, у т. л. камандзіраў 8-й Рагачоўскай брыгады Ф. С. *Тарасевіча,* 10-й Журавіцкай брыгады І. М. *Гаўрылава,* камандзіра групы падрыўнікоў Героя Сав. Саюза П. І. *Кавалёва,* юных партызан П. Каваленкі, В. Шолухава і інш., групы сав. разведчыкаў, малюнкі партыз. мастакоў С. Раманава і М. Ліпеня. Пра злачынствы ням.-фаш. захопнікаў расказваюць фатаграфіі помнікаў на месцах масавай загубы сав. людзей і на месцах спаленых разам з жыхарамі вёсак. Матэрыялы пра вызваленне горада і раёна ў ходзе *Рагачоўска-Жлобінскай аперацыі 1944:* схема бою за вызваленне Рагачова, фатаграфіі воінаў-вызваліцеляў, у т. л. 35 Герояў Сав. Саюза, матэрыялы пра вайсковыя часці і злучэнні, якія атрымалі ганаровыя найменні «Рагачоўскіх», пра землякоў — удзельнікаў Вял. Айч. вайны. *С. В. Якаўлева.*

**РАГАЧО́ЎСКІЯ ВАЙСКО́ВЫЯ ЗЛУЧЭ́ННІ І ЧА́СЦІ.** За вызваленне г. Рагачоў (24.2.1944) у ходзе *Рагачоўска-Жлобінскай аперацыі 1944* ганаровыя найменні «Рагачоўскіх» паводле загада ВГК ад 26.2.1944 атрымалі 13 злучэнняў і часцей 3-й арміі 1-га Бел. фронту.

Злучэнні і часці, якім нададзены ганаровыя найменні «Рагачоўскіх»: 120-я гвардз. Чырванасцяжная (палк. Я. Я. Фогель), 169-я (палк. Ф. А. Вяроўкін) і 269-я (ген.-маёр А. Ф. Кубасаў) стралк. дывізіі, 13-я зенітная арт. дывізія (палк. У. М. Качубей), 40-я знішчальная процітанк. арт. брыгада (палк. С. А. Нікіцін), 2-я штурмавая інжынерна-сапёрная брыгада (палк. М. П. Воранаў), 36-ы (падпалк. М. В. Макаркін) і 160-ы (маёр Я. А. Белякоў) асобныя танкавыя палкі, 286-ы армейскі мінамётны полк (маёр Б. Х. Алімбаеў), 554-ы армейскі пушачны арт. полк (падпалк. А. Ф. Сяргееў), 9-ы гвардз. інж. батальён (маёр І. Я. Шафарост), 48-ы асобны матарызаваны пантонна-маставы батальён (маёр Н. Г. Кожын), 141-я асобная рота ранцавых агнямётаў (ст. лейтэнант В. А. Сысоеў). Войскам, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Рагачова, загадам ВГК ад 24.2.1944 абвешчана падзяка, у Маскве дадзены салют 12 арт. залпамі з 124 гармат. У 1972 у гонар вызвалення Рагачова ад ням.-фаш. акупантаў пастаўлены помнік — 7-метровы мармуровы пілон, побач — мемарыяльная сцяна, дзе пералічаны вайсковыя часці і злучэнні, якія ўдзельнічалі ў вызваленні горада.

*М. І. Камінскі.*

**РАГО́ЎСКІ** Міхаіл Канстанцінавіч (н. 15.6.1925, в. Няжараўка Любанскага р-на), поўны кавалер ордэна Славы. У Айч. вайну партызан, на фронце з 1944. Камандзір аддзялення мал. сяржант Р. вызначыўся ў баях на тэр. Польшчы і Германіі, 15.1.1945 на левым беразе Віслы адзін з першых уварваўся ў варожыя траншэі і пачаў рукапашны бой. У баі 1.2.1945 знішчыў кулямётную кропку. 14.4.1945 уварваўся ў варожыя траншэі, гранатамі закідаў кулямётную кропку, гэтым садзейнічаў наступленню пяхоты. Жыве на радзіме.

**РАДАШКО́ВІЧЫ,** гар. пасёлак у Маладзечанскім р-не, пры зліцці рэк Вязынка і Гуйка ў Рыбчанку. За 32 км на ПдУ ад Маладзечна, за 10 км ад чыг. ст. Радашковічы на лініі Мінск — Маладзечна, на аўтадарозе Мінск — Маладзечна. У 1940—44 цэнтр Радашковіцкага р-на. Каля Р. праходзіў рубеж *Мінска абароны 1941.* У пачатку вайны Р. апынуліся ў паласе напрамку галоўнага ўдару 3-й ням. танк. групы ген. Гота, якая наступала з раёна Вільнюса праз Маладзечна — Радашковічы на Мінск. З 23 чэрв. барацьбу з варожымі дэсантнікамі, закінутымі ў сав. тыл, вялі пагранічнікі 1-й Радашковіцкай пагранкамендатуры (капітан Ломцеў) і 5-й пагранзаставы (лейт. М. П. Трэгубаў) 16-га Дзяржынскага пагранатрада (напярэдадні вайны каля Р. праходзіла пагранлінія па старой сав.-польскай граніцы). 24 і 25 чэрв. байцы 5-й заставы ў 12-гадзінным баі з варожай пяхотай, падтрыманай танкамі, адбілі некалькі атак, знішчылі каля батальёна праціўніка, прарвалі акружэнне і адышлі да Заслаўя. На ўчастку Радашковічы — Заслаўе абарону трымалі часці 64-й стралк. дывізіі (палк. С. І. *Іаўлеў*). Каля Р. змагаліся падраздзяленні 30-га стралк. палка (палк. А. І. Яфрэмаў). 24 чэрв. рухомы атрад пад камандаваннем нач. штаба 30-га стралк. палка капітана К. З. Захарава ў раёне Р. знішчыў каля 20 ням. парашутыстаў. Раніцай 25 чэрв. каля Р. у скарацечным баі воіны палка разграмілі разведгрупу ням. 20-й танк. дывізіі, знішчылі 3 танкі, каля 20 аўтамашын, некалькі дзесяткаў гітлераўцаў. У раёне Р. 25 чэрв. 2 роты разведчыкаў з 64-й і 108-й стралк. дывізій пад кіраўніцтвам камандзіра 73-га асобнага разведбатальёна 64-й стралк. дывізіі маё-

ра Я. У. Чумакова разбілі аператыўную групу ням. штаба 39-га механіз. корпуса, захапілі важныя аператыўныя дакументы праціўніка, якія былі перададзены ў штаб Зах. фронту, потым у Генштаб. Бязлітасныя баі ішлі за 5—6 км на У ад Р. каля в. Рогава і на Пд ад яе па лініі дотаў Мінскага УР. Тут абарону трымалі стралк. батальёны 30-га стралк. палка і батарэя 163-га лёгкага арт. палка, вёска неаднаразова пераходзіла з рук у рукі. 26.6.1941 каля Р. бессмяротны подзвіг здзейсніў экіпаж самалёта пад камандаваннем капітана М. Ф. *Гастэлы* 207-га авіяпалка 42-й бамбардзіровачнай авіядывізіі, які накіраваў палаючы самалёт у скопішча варожай тэхнікі. 27.6.1941 за 2 км на У ад Р. экіпаж самалёта 128-га бамбардзіровачнага авіяпалка пад камандаваннем ст. лейт. І. З. Прэсайзена паўтарыў подзвіг Гастэлы. 25.6. 1941 Р. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў Р. і раёне 6433 чал. У Р. і раёне дзейнічалі Радашковіцкія падп. райкомы КП(б)Б (6.1 — 1.7.1944) і ЛКСМБ (23.8. 1943 — 1.7.1944), партыз. брыгады імя Шчорса, імя Фрунзе, «Штурмавая», асобны партыз. атрад А. Свентаржэцкага (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«Смерть фашистам»*. Вызвалены 3.7.1944 воінамі 8-й гвардз. механіз. брыгады (палк. С. Д. Крэмер) 3-га гвардз. механіз. корпуса, 1-й гвардз. стралк. дывізіі (палк. П. Ф. Тоўсцікаў), 16-га гвардз. стралк. корпуса, 26-й гвардз. стралк. дывізіі (ген.-маёр Р. І. Чарноў) 8-га гвардз. стралк. корпуса 11-й гвардз. арміі 3-га Бел. фронту ў ходзе *Мінскай аперацыі 1944*. У Р. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, 2 магілы ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі; помнікі Гастэлу, экіпажу Гастэлы, сав. лётчыкам (за 2 км ад Р.), землякам.

*Т. І. Паваліхіна.*

**РАДЗІЕЎСКІ** Аляксей Іванавіч (13.8. 1911, г. Умань Чаркаскай вобл.—30.8. 1979), ген. арміі (1972), Герой Сав. Саюза (1978). Канд. ваен. навук (1947), прафесар (1961). Чл. КПСС з 1931. У Чырв. Арміі з 1929. Скончыў ваен. акадэміі імя Фрунзе (1938) і Генштаба (1941). З чэрв. 1941 на Зах., Паўд.-Зах., 2-м Укр. і 1-м Бел. франтах: нач. штаба кав. дывізіі, корпуса, з лют. 1944—2-й танк. арміі, у ліп. 1944 — студз. 1945 камандаваў гэтай арміяй. Удзельнічаў у рэйдзе 2-га кав. корпуса па тылах праціўніка ў раёне Дзямідава, Духаўшчыны, у абарончых баях пад Масквой, контрнаступленні войск Зах. фронту, у вызваленні Украіны. 2-я танк. армія пад яго камандаваннем удзельнічала ў *Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944*, Вісла-Одэрскай і Берлінскай аперацыях. Пасля вайны на адказных пасадах у Сав. Арміі, у 1969—78 нач. Ваен. акадэміі імя Фрунзе. Дэп. ВС СССР у 1958—62.

**РАДКЕВІЧ** Аляксандр Іванавіч (26.8. 1916, в. Балгавічы Капыльскага р-на — 17.10.1957), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1941. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. На фронце з чэрв. 1941. Камандзір асобнага інж. батальёна маёр Р. вызначыўся ў кастр. 1943 пры фарсіраванні Дняпра ў раёне Крамянчуга. Камендант дэсантна-паромнай пераправы Р. пад агнём праціўніка забяспечыў бесперапынную пераправу на правы бераг ракі каля 20 тыс. байцоў, 83 танкаў, 368 гармат, 20 мінамётаў, 566 аўтамашын і трактароў, 436 т боепрыпасаў. Пасля вайны ў Сав. Арміі. Яго імем названа вуліца ў в. Балгавічы, у в. Папоўцы Капыльскага р-на пастаўлены бюст Р.

**РАДКЕВІЧ** Мікалай Мікалаевіч (22.2. 1904, г. п. Лагойск — 4.6.1982), ген.-лейт. танк. войск (1954). Чл. КПСС з 1932. Скончыў ваен. акадэміі матарызацыі і механізацыі Чырв. Арміі (1937), Генштаба (1941). У Чырв. Арміі з 1920. У Айч. вайну з 1941 на Паўд., Паўд.-Зах., Варонежскім, Бранскім, 2-м Далёкаўсх. франтах: камандзір танк. брыгады, корпуса, камандуючы бранятанк. і механіз. войскамі фронту. У 1946—59 у войсках і цэнтр. апараце Міністэрства абароны СССР.

**РАДУНЬ,** гар. пасёлак у Воранаўскім р-не, на р. Радунька. За 31 км на ПдЗ ад Воранава, за 24 км ад чыг. ст. Бастуны (на лініі Вільнюс—Ліда). Вузел аўтадарог на Вільнюс, Ліду, Іўе, Васілішкі, Астрыну. У 1939—57 вёска, у 1940—62 цэнтр раёна. У чэрв. 1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія вясной 1942 расстралялі тут 1137 сав. грамадзян, у т. л. 314 жанчын і 298 дзяцей. На тэр. раёна дзейнічалі *Лідскі падпольны міжрайпартцэнтр*, *Лідскі падпольны міжрайцэнтр ЛКСМБ*, Радунскія падп. райкомы КП(б)Б (8.8.1943—8.1.1944, у студз. 1944 перабазіраваўся ў Васілішкаўскі р-н і перайменаваны ў Васілішкаўскі) і ЛКСМБ (15.8.1943—11.7.1944), *Баранавіцкая акруговая антыфашысцкая арганізацыя*, *Лідскае партызанскае злучэнне*. Вызвалена 13.7.1944 воінамі 12-га гвардз. палка 88-й стралк. дывізіі 31-й арміі 3-га Бел. фронту ў ходзе *Вільнюскай аперацыі 1944*. У Р. брацкая магіла сав. воінаў, партызан і супрацоўнікаў дзярж. бяспекі, магіла ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі; помнікі землякам, якія загінулі ў барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі.

*Н. У. Капранава.*

**РАЁННЫЯ АНТЫФАШЫСЦКІЯ АРГАНІЗАЦЫІ,** падпольныя патрыятычныя арг-цыі, якія дзейнічалі ў 1942—44 на чале з абл. і раённымі антыфашысцкімі к-тамі пад кіраўніцтвам парт. органаў. Былі створаны ў 27 раёнах зах. абласцей Беларусі: Баранавіцкай — Васілішкаўская, Зэльвенская, Радунская, Слонімская, Шчучынская; Беластоцкай — Бельская, Браньская, Ваўкавыская, Гродзенская, Заблудаўская, Крынкаўская, Лапская, Свіслацкая, Скідзельская, Снядоўская, Саколкаўская; Брэсцкай — Бярозаўская, Высокаўская, Гайнаўская, Камянецкая, Косаўская, Маларыцкая, Поразаўская, Пружанская, Ружанская, Сямяціцкая, Шараўская. Складаліся з падп. ячэек (груп, уваходзіла 3—5 чал.), часам аб'ядданых у падраёны. У састаў раённага антыфаш. к-та ўваходзілі, як правіла, сакратар, 2 намеснікі, «тэхнік» і інструктар. Дзейнасць раён. антыфаш. арг-цый накіроўвалі *раённыя падпольныя камітэты КП(б)Б*. Яны дапамагалі наладжваць і ўмацоўваць сувязь з партыз. фарміраваннямі, праводзіць сярод насельніцтва паліт. агітацыю і прапаганду, разгортваць разведвальна-дыверсійную работу. Пра Ваўкавыскую, Гродзенскую, Камянецкую, Косаўскую, Скідзельскую, Слонімскую арг-цыі гл. асобныя артыкулы.

М. К. Рагоўскі. А. І. Радкевіч.



**РАЁННЫЯ ПАДПОЛЬНЫЯ КАМІТЭТЫ КП(Б)Б,** кіруючыя парт. органы на часова акупіраванай ням.-фаш. захопнікамі тэр. Беларусі. Стваралі і ўзначальвалі парт.-патрыятычнае і антыфаш. падполле, партыз. рух, пярвічныя парт. арг-цыі партыз. фарміраванняў, праводзілі паліт. і арганізатарскую работу сярод насельніцтва, узнімалі яго на барацьбу супраць акупантаў. Іх дзейнасць накіроўвалі *абласныя падпольныя камітэты КП(б)Б*, *міжраённыя падпольныя камітэты КП(б)Б*, а ў Мінску і *Мінскі падпольны гарком КП(б)Б*. На Беларусі дзейнічалі 166 падп. райкомаў КП(б)Б, у т. л. 5 райкомаў у г. Мінску (гл. табл.).

**РАЁННЫЯ ПАДПОЛЬНЫЯ КАМІТЭТЫ ЛКСМБ,** кіруючыя камсамольскія органы ў ліп. 1941 — жн. 1944 на часова акупіраванай ням.-фаш. захопнікамі тэр. Беларусі (у 1942—43 у Докшыцкім, Мядзельскім, Пастаўскім р-нах Вілейскай вобл. называліся тройкамі). Стваралі і ўзначальвалі

камсам.-маладзёжнае падполле, пярвічныя камсам. арг-цыі партыз. фарміраванняў, праводзілі палітыка-выхаваўчую і арганізатарскую работу сярод моладзі, падымалі яе на барацьбу супраць акупантаў. Працавалі пад кіраўніцтвам ЦК ЛКСМБ, падп. органаў КП(б)Б, абкомаў, міжрайкомаў, міжрайцэнтраў ЛКСМБ, упаўнаважаных ЦК ВЛКСМ. На Беларусі дзейнічала 189 падпольных райкомаў ЛКСМБ, у т. л. 3 райкомы у г. Мінску (гл. табл.).

**Раённыя падпольныя камітэты КП(б)Б**

| Назва, час дзейнасці, друкаваны орган | Склад |
|---|---|
| | БАРАНАВІЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ [*Працавалі 23 падпольныя РК КП(б)Б*] |
| Быценскі 4.11.1943—12.7.1944; «На разгром врага» | Сакратары: Р. Дз. Румянцаў (да 10.5.1944), І. Я. Пархоўчанка (з 10.5.1944); члены: І. К. Баранаў, В. З. Іваноў, І. Н. Жаўтагірка (з 26.2.1944), А. А. Маркевіч (26.2 — крас. 1944). |
| Валожынскі 8.6.1943—5.7.1944; «Искра» | Сакратар С. А. Кузняцоў; члены: Ф. С. Вільчык, Д. К. Зухба, І. П. Казак (з ліп. 1943), А. Б. Сакалоў (з ліп. 1943), С. М. Плахін (з 23.1.1944). |
| Васілішкаўскі 8.1—11.7.1944; «Красный партизан» | Сакратар А. А. Патапаў; члены: Б. І. Гардзейчык, М. В. Міхалеў (з 27.4.1944). |
| Гарадзішчанскі ліп. 1943—10.7.1944; «Партызан Беларусі» | Сакратары: М. І. Ільініч (да 27.12.1943), С. П. Ляснічы (з 27.12.1943); члены: М. М. Дземікаў (з 27.12.1943, нам. сакратара), М. І. Кандрацьеў (да 10.10.1943), Ляснічы (10.10—26.11.1943), Г. М. Бабушкіна (7—27.12.1943), П. П. Андрэеў, П. І. Смірноў (абодва з 27.12.1943). |
| Дзятлаўскі 20.8.1943—15.7.1944; «Знамя свободы» | Сакратар Р. В. Макараў; члены: Я. І. Мамот, А. А. Шурупчанка, І. М. Глазкоў (з 16.12.1943). |
| Жалудоцкі 10.12.1943—15.7.1944 | Сакратары: М. Н. Бурцаў (да 9.3.1944), Г. М. Габдулвакілаў (з 9.3.1944); члены: П. А. Аляксандраў (да 23.4.1944), Ф. М. Белавусаў (з 9.3.1944). |
| Зэльвенскі 10.12.1943—13.7.1944; «За Советскую Белоруссию» | Сакратар Р. Г. Іўліеў (да 19.6.1944, загінуў); член І. Дз. Калашэйнаў. |
| Івянецкі 8.6.1943—6.7.1944; «Народный мститель» | Сакратары: Р. А. Сідарок (1-ы сакратар), У. К. Курленка (2-і сакратар з мая 1944); члены: В. І. Парфянюк (да 31.3.1944), Ф. Я. Хмельнікаў, Г. В. Будай (29.10.1943—лют. 1944), Курленка (з 19.12.1943). |
| Іўеўскі 11.7.1943—6.7.1944; «Белорусский мститель», з 14.4.1944 «Мститель» | Сакратары: І. М. Паляшчук (да кастр. 1943, загінуў), І. М. Ляўковіч (з 4.1. 1944); члены: Ляўковіч, Л. М. Пагоцкі (да 4.1.1944), М. В. Пронькін, Ц. Ф. Пуцілаў (абодва з 4.1.1944). |
| Казлоўшчынскі вер. 1943—15.7.1944; «Народный мститель» | Сакратары: Р. Г. Іўліеў (да 10.12.1943), Г. Р. Бурцава (з 10.12.1943); члены: Г. М. Габдулвакілаў (10.12.1943—9.3.1944), У. А. Дораш (з 10.12.1943), С. С. Касцярэнка (з 9.3.1944). |
| Карэліцкі ліп. 1943—10.7.1944; «Чырвоны партызан» | Сакратары: У. М. Чарткоў (да 27.12.1943), М. І. Ільініч (з 27.12.1943); члены: І. С. Кірын, І. М. Худзякоў (абодва 8.8—27.12.1943), Н. Г. Кавалёў, Р. С. Радкевіч (абодва з 27.12.1943). |
| Клецкі 7.4.1943—3.7.1944; «За Савецкую Беларусь» | Сакратары: М. І. Дубін (да 24.2.1944), П. А. Бягун (з 24.2.1944); члены: Л. Д. Вайнер, І. П. Растаргуеў (да 18.2.1944), Дубін, І. Я. Пархоўчанка (24.2 — крас. 1944), М. І. Ястрабаў (24.2 — май 1944). |
| Любчанскі чэрв. 1943—11.7.1944; «Смерть фашизму» | Сакратары: Д. Д. Дземаншчонак, Я. П. Ляхаў (з сак. 1944), члены: Л. І. Буткевіч (да жн. 1943), Р. П. Журэнка (да 4.10.1943), П. Н. Захараў, Ляхаў (абодва з 4.10.1943). |
| Ляхавіцкі вер. 1943—10.7.1944; «Савецкі патрыёт» | Сакратар С. К. Дзесюкевіч; члены: А. А. Адамаў, І. А. Кушынскі (да 9.1.1944, загінуў), Я. Л. Шэвелеў (з 12.5.1944), В. І. Каробкін (18.2—17.5.1944), І. П. Растаргуеў (з 18.2.1944), М. І. Засмужац (з 31.5.1944). |

**РАЖКО́Ў** Іван Мітрафанавіч (н. 24.7. 1910, с. Шчучае Эрцільскага р-на Варонежскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1932. З 1925 рабочы, на сав. і парт. рабоце. З чэрв. 1941 на Зах. фронце. З кастр. 1941 у тыле ворага, з мая 1942 радавы партыз. групы, з мая 1943 камандзір роты, з ліст. 1942 камісар атрада імя Чапаева, у снеж. 1942 — чэрв. 1943 камісар *партызанскай брыгады 27-й імя В. І. Чапаева,* у чэрв.— жн. 1943 — *партызанскай брыгады 225-й імя А. В. Суворава,* з ліст. 1943 камісар атрада імя Кутузава, у крас.— чэрв. 1944 — *партызанскай брыгады 100-й імя С. М. Кірава.* У 1944—71 на парт., сав., адм.-гасп. і гасп. рабоце.

**РАЖНО́ВА,** вёска на тэр. Расонскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 5 км на У ад в. Гольніца Бірузоўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыў 71 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 23 жыхароў, у т. л. 9 дзяцей, вёску (17 двароў) спалілі, маёмасць разрабавалі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**«РАЗГРО́М»,** газета, орган парт. і камсам. арг-цыі *партызанскай брыгады «Разгром».* Вядомы 2 нумары ад 1.5 і 28.6.1944 на рус. мове.

**«РАЗДА́ВІМ ФАШЫ́СЦКУЮ ГА́ДЗІНУ»,** сатырычнае выданне ЦК КП(б)Б. Выходзіла з ліп. 1941 да мая 1945, спачатку на рус. і бел., потым на бел. мове. Выдавалася ў Гомелі, потым у прыфрантавой паласе і ў Маскве, пазней у Навабеліцы і Мінску. Да сак. 1942 выпускалася як агітплакат, пазней як газета-плакат і як сатырычны часопіс. У час акупацыі Беларусі ням.-фаш. захопнікамі засылалася ў тыл ворага для насельніцтва і партызан Беларусі. Змяшчала фельетоны, памфлеты, сатырычныя вершы, казкі, карыкатуры. Сродкамі сатыры выкрывала акупантаў, заклікала сав. людзей актыўна змагацца з ворагам. У выданні ўдзельнічалі Я. Купала, Я. Колас, К. Чорны, К. Крапіва, А. Астрэйка, П. Броўка, В. Вітка, М. Лужанін, М. Танк і інш. бел. пісьменнікі, мастакі З. Азгур, В. Букаты, Г. Вальк і інш. Са жн. 1945 выходзіць як сатырычны часопіс «Вожык».

**РАЗУВА́КІН** Павел Ільіч (1914, с. Чарменіна Ржэўскага р-на Калінінскай вобл.— 29.4.1944), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1939. З 1936 у Чырв. Арміі. У партызанах з мая 1942, з жн. 1942 камісар атрада, у снеж. 1942 — чэрв. 1943 камісар *партызанскай брыгады 225-й імя А. В. Суворава,* адначасова чл. Грэскага падп. РК КП(б)Б, у чэрв.— вер. 1943 камісар *партызанскай брыгады 27-й імя В. І. Чапаева,* з вер. 1943 — *партызанскай брыгады 161-й імя Р. І. Катоўскага.* Загінуў у баі.

| 1 | 2 |
|---|---|
| Мірскі<br>26.11.1943—10.7.1944;<br>«Сцяг свабоды» | Сакратары: А. І. Дзееў (1-ы сакратар з 29.12.1943), І. В. Шэметавец (да 29.12.1943, да лют. 1944 2-і сакратар); члены: М. Д. Нос, Р. Л. Марахоўскі (да сак. 1944), П. Ф. Шынкарэнка (15.3 — май 1944, загінуў), Р. М. Панявін, В. С. Багамазаў (абодва з 19.5.1944). |
| Навагрудскі<br>13.6.1943—6.7.1944;<br>«Звезда» | Сакратары: Ц. Дз. Дзмітрыеў (да 11.1.1944, 1-ы сакратар да 25.1.1944), П. А. Склемін (2-і сакратар з 11.1.1944, сакратар з 25.1.1944); члены: Г. І. Бязлюдаў (да студз. 1944), М. Ц. Цяцерын, А. В. Сауцін (з 11.1.1944), І. П. Косараў (з 9.5.1944). |
| Навамышскі<br>ліп. 1943—6.7.1944;<br>«Перамога» | Сакратары: А. І. Дзееў (да 26.11.1943), С. П. Ляснічы (26.11—27.12.1943), У. М. Чарткоў (з 27.12.1943), Р. Л. Марахоўскі (2-і сакратар з 8.3.1944); члены: П. Я. Яфімаў (з 8.8.1943), І. С. Кірын (з 27.12.1943). |
| Нясвіжскі<br>7.4.1943—4.7.1944 | Сакратары: А. К. Фядзіеў (да 25.9.1943), Ф. А. Усошын (29.9.1943—3.7.1944, загінуў); члены: В. І. Лазоўскі, М. М. Няпомняшчых (абодва да вер. 1943), Фядзіеў, А. С. Самойленка (з 29.9.1943). |
| Радунскі<br>8.8.1943—8.1.1944<br>(у студз. перабазіраваўся ў Васілішкаўскі р-н і перайменаваны ў Васілішкаўскі) | Сакратар А. А. Патапаў; члены: Б. І. Гардзейчык, П. А. Раманенка. |
| Слонімскі<br>17.9.1943—10.7.1944;<br>«Вольная праца» | Сакратар М. Т. Анішчык; члены: М. С. Вальцаў (з 21.10.1943), Ф. Д. Кавалеўскі (21.10.1943—6.4.1944), Р. Ц. Вараб'ёў (з 6.4.1944). |
| Стаўбцоўскі<br>15.10.1943—10.7.1944;<br>«Голас селяніна» | Сакратары: У. З. Царук (да 29.12.1943, 1-ы сакратар з 29.12.1943), А. З. Гайсараў (2-і сакратар з 29.12.1943); члены: Гайсараў, А. Л. Сцепчанка, С. І. Казачкоў (з 29.12.1943), П. В. Дудкоўскі (з 19.5.1944). |
| Шчучынскі<br>ліст. 1943—15.7.1944;<br>«Красное знамя» | Сакратар С. П. Шупеня; члены: Ф. В. Зямскоў, Я. М. Пятроў (абодва з 10.12.1943). |
| Юрацішкаўскі<br>6.7.1943—7.7.1944;<br>«Большевик» | Сакратары: М. М. Гаўрылаў (1-ы сакратар), В. С. Бярэзенцаў (2-і сакратар з 3.1.1944); члены: А. Г. Байкоў, А. М. Кляўко (да 28.11.1943), М. В. Пронькін (28.11.1943—3.1.1944), М. І. Зямскоў, А. Р. Марозаў (абодва з 3. 1. 1944). |
| **БЕЛАСТОЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ**<br>[*Працавала 9 падпольных РК КП(б)Б*] | |
| Беластоцкі<br>18.4—18.8.1944 | Сакратар Я. Г. Осіпаў; члены: А. Я. Андрэеў, П. В. Зязюля (абодва з 4.5.1944). |
| Ваўкавыскі<br>28.11.1943—16.7.1944 | Сакратар Р. С. Лук'янаў; члены: С. Ф. Тафінцаў, В. А. Чыстова. |
| Гродзенскі<br>28.11.1943—13.7.1944;<br>«За Советскую Родину» | Сакратары: П. Р. Бастун (да 25.1.1944), П. П. Дайнека (з 25.1.1944); члены: В. Ф. Бібіч, В. І. Соламава (абодва да лют. 1944, загінулі), У. А. Аўдонін, Ф. Л. Крайнік (абодва з 26.2.1944). |
| Ломжынскі<br>снеж. 1943—12.7.1944;<br>«Смерть фашизму» | Сакратар А. П. Сакольчык; члены: Я. У. Нартыш-Блук, Г. С. Міснік (абодва з 30.6.1944). |
| Саколкаўскі<br>12.3 — май 1944 | Сакратар І. Я. Лісаковіч; члены не ўстаноўлены. |
| Сапоцкінскі<br>вер. 1943—13.7.1944 | Сакратары: Я. І. Ісаёнак (да 14.10.1943), І. Я. Сямашка (з лют. 1944); члены не ўстаноўлены. |
| Свіслацкі<br>23.10.1943—13.7.1944;<br>«Свислочская правда» | Сакратар А. Г. Шламанаў; члены: Х. А. Матэвасян, С. І. Шэлег, П. І. Сурсанаў (з 17.2.1944). |
| Скідзельскі<br>28.11.1943—13.7.1944;<br>«Красное знамя» | Сакратар І. М. Аўсейчык; члены М. П. Кожураў (да 8.2.1944), А. Р. Паўлюткін, К. М. Ешчанка (з 8.2.1944). |
| Снядоўскі<br>вер. 1943—14.8.1944;<br>«За нашу победу» | Сакратар І. С. Шурман; члены не ўстаноўлены. |



**РА́ЙЦАЎ** Даніла Фядотавіч (н. 5.4. 1914, в. Міхалкова Віцебскага р-на), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Засл. меліяратар БССР (1966). Чл. КПСС з 1942. З 1931 на пед. рабоце, ст. землеўпарадчык, нач. геадэзічнай групы ў Суражскім р-не. У партызанах з ліп. 1941: камандзір групы, атрада, у ліст. 1942 — ліст. 1943 *партызанскай брыгады імя Чырванасцяжнага Ленінскага камсамола.* З 1943 на сав., гасп. і парт. рабоце, з 1955 нач. Віцебскага міжраённага ўпраўлення асушальных і арашальных сістэм. Ганаровы грамадзянін г. Віцебска (1974).



П. М. Рак. К. К. Ракасоўскі.

**РАК** Павел Мікалаевіч (23.8.1910, с. Карпілаўка Лубенскага р-на Палтаўскай вобл.— 30.6.1944). Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1940. На фронце з 1942. Камандзір узвода сярэдніх танкаў, парторг роты лейтэнант Р. вызначыўся 30.6.1944 пры вызваленні Барысава. Танк з экіпажам у складзе А. І. *Данілава,* А. А. *Пятраева* і Р. па мосце цераз Бярэзіну прарваўся ў заняты ворагам горад, 17 гадз вёў бой, разграміў камендатуру, штаб, падбіў 2 танкі, вызваліў 200 ваеннапалонных; экіпаж згарэў у танку. Пахаваны ў Барысаве. Навечна залічаны ў спіс гвардз. танк. часці. Яго імем названы вуліца ў Барысаве, школа ў Жодзіне. У Барысаве помнік экіпажу.

**РАКАСО́ЎСКІ** Канстанцін Канстанцінавіч (21.12.1896, г. Варшава, ПНР — 3.8.1968), Маршал Сав. Саюза (1944). Маршал Польшчы (1949), двойчы Герой Сав. Саюза (1944, 1945). Чл. КПСС з 1919. У арміі з 1914, у Чырв. гвардыі з 1917, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік 1-й сусв. і грамадз. войнаў. Да 1941 камандзір кав. палка, брыгады, дывізіі (у 1930 на Беларусі), корпуса. У Вял. Айч. вайну камандаваў механіз. корпусам, 16-й арміяй на Зах. фронце, войскамі Бранскага, Данскога, Цэнтр., Бел., 1-га і 2-га Бел. франтоў. Удзельнік *Смаленскай бітвы 1941,* Маскоўскай, Сталінградскай, Курскай бітваў, *Чарнігаўска-*

| 1 | 2 |
|---|---|
| **БРЭСЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ** [*Працавала 10 падпольных РК КП(б)Б*] | |
| Антопальскі вер. 1943—12.7.1944 | Сакратар А. І. Хромава; члены: Р. А. Дудко, Р. Я. Рэва, С. В. Кераў, П. С. Сідарук (усе з студз. 1944). |
| Бярозаўскі снеж. 1943—12.7.1944; «Пламя» | Сакратары: С. А. Яроцкі (да 10.6.1944), В. М. Яроцкі (з 10.6.1944); члены: С. Н. Бельскі, Ф. А. Бяляеў, В. М. Буры, Б. М. Вінаградаў, А. Я. Царыкаў, В. М. Яроцкі (усе з 7.2.1944). |
| Гайнаўскі снеж. 1943—10.7.1944; «Гайновский рабочий» | Сакратар А. Ф. Петракоў; члены не ўстаноўлены. |
| Дзівінскі 4.12.1943—30.3.1944 | Сакратар А. І. Федасюк; члены: Дз. Я. Зуеў, М. Казлоў, З. І. Южная (усе з 3.3.1944). |
| Камянецкі 14.6—11.7.1944 | Сакратар В. А. Пятроў; члены: С. Г. Жунін, Ц. М. Кавецкі, К. Р. Пісанка, М. Ф. Храноўскі, І. В. Чуркін, П. А. Красякоў. |
| Кляшчэльскі кастр. 1943—11.7.1944 | Сакратар Т. А. Шунько; члены: У. С. Жлобіч, Дз. М. Макараў, Л. І. Паленаў, А. Ц. Чайкоўскі (усе з студз. 1944). |
| Кобрынскі ліст. 1943—19.7.1944 | Сакратары: А. І. Федасюк (да 4.12.1943), М. П. Леановіч (з 4.12.1943); члены: Ф. М. Баранаў, М. С. Гамбург, І. В. Пятроў, С. І. Шмыроў (усе з снеж. 1943). |
| Косаўскі чэрв.— 12.7.1944 | Сакратар П. Р. Кавалёў; члены: І. М. Белякоў, В. М. Манахаў, А. І. Сувалаў, М. П. Чарных. |
| Маларыцкі 2.10.1943—25.3.1944 | Сакратар М. Л. Кучэра; член І. В. Жохаў. |
| Пружанскі 23.11.1943—11.7.1944 | Сакратар С. П. Пацяруха; члены: І. А. Ягораў, М. П. Мякішаў, А. Ф. Пачобутаў, М. Н. Разуванаў. |
| **ВІЛЕЙСКАЯ ВОБЛАСЦЬ** [*Працавала 20 падпольных РК КП(б)Б*] | |
| Астравецкі май — 6.7.1944 | Сакратар Ф. І. Ларыёнаў; члены: Ф. М. Івендзікаў, У. П. Шуцкі. |
| Ашмянскі 28.9.1943—8.7.1944; «Знамя свободы» | Сакратар У. І. Тубеліс; члены: В. А. Манохін, В. Ф. Папок (да 17.10.1943), К. Дз. Сліта (да 22.6.1944, загінуў). |
| Браслаўскі 14.9.1943—2.7.1944; «Чырвоны сцяг» (1943), «Смерть фашизму» (1944) | Сакратары: П. П. Булойчык (да кастр. 1943, загінуў), П. Я. Сырамаха (з 5.12.1943); члены: М. З. Гляк, Сырамаха, А. П. Запарожац (5.12.1943 — студз. 1944), В. М. Чачулаў (з 5.12.1943), М. А. Кароўкін (з 25.2.1944). |
| Відзскі 14.9.1943—4.7.1944; «Красное знамя» | Сакратар А. М. Панамароў; члены: М. К. Ігнацьеў, В. М. Чарных (да 15.5.1944), М. Я. Самайлёнак (з 15.5. 1944). |
| Глыбоцкі 16.11.1943—3.7.1944; «За свабоднае жыццё» | Сакратар С. П. Пархімовіч; члены: М. Р. Анічкін, М. В. Лытасаў, Н. А. Вячэрскі (з 17.5.1944), К. І. Мішын (з 17.5.1944). |
| Дзісенскі 14.11.1943—3.7.1944; «Кліч партызана», пазней «Народный мститель» | Сакратары: Ф. М. Расюк (1-ы сакратар), П. Л. Сафронаў (2-і сакратар да 14.1.1944); члены: А. С. Іваноў, У. К. Шэндзелеў (да 14.1.1944), В. А. Сазыкін (да 4.2.1944), М. Д. Свірыдзенка, А. С. Сямёнаў (абодва з 14.1.1944), М. І. Ярмак (4.2—6.6.1944, загінуў). |
| Докшыцкі 29.8.1943—1.7.1944; «Партизанская правда» | Сакратары: М. З. Умінскі (да 29.2.1944), М. Т. Гарбаценкаў (з 29.2.1944), М. Р. Пучкароў (з 8.6.1944); члены: Ф. А. Крукаў (да 30.9.1943), Пучкароў, У. С. Свірыд (да 6.5.1944, загінуў), Гарбаценкаў, А. Д. Мядзведзеў (з кастр. 1943), П. М. Максіменка (з 29.2.1944). |
| Дунілавіцкі 14.9.1943—3.7.1944; «Звязда», з мая 1944 «Партизанская правда» | Сакратар У. Н. Дорменеў; члены: М. Р. Анічкін (да 16.11.1943), К. І. Кавалёва (да 12.4.1944), С. П. Пархімовіч (да 16.11.1943), А. В. Раманаў, Г. І. Казарцаў (з 16.11.1943), Ш. Н. Нігамаеў (з 16.11.1943), Р. І. Інсафутдзінаў (з 12.4.1944, нам. сакратара). |
| Ільянскі 18.8.1943—1.7.1944; «Партизанская правда» | Сакратары: І. І. Міраненка (да 21.1.1944), М. А. Мядзведзеў (2-і сакратар), П. М. Шалкоўскі (з 27.1.1944); члены: М. Р. Бялоў (да вер. 1943, загінуў), Шалкоўскі, М. В. Чарапанаў (з 27.1.1944). |
| Крывіцкі 29.8.1943—1.7.1944; | Сакратар Д. Л. Місуноў; члены: П. Ф. Рудаў, Дз. С. Ша- |

*Прыпяцкай аперацыі 1943, Калінкавіцка-Мазырскай аперацыі 1944, Рагачоўска-Жлобінскай аперацыі 1944, Беларускай аперацыі 1944,* Усх.-Прускай, Усх.-Памеранскай, Берлінскай аперацый. 24.6.1945 камандаваў *Парадам Перамогі* ў Маскве. З 1945 галоўнакамандуючы Паўн. групай войск. З 1945 па запрашэнню ўрада ПНР і з дазволу Сав. ўрада на пасадах міністра нац. абароны і нам. Старшыні СМ ПНР; чл. Палітбюро ЦК ПАРП, дэп. сейма. З 1956 нам. міністра абароны СССР. З 1957 на камандных пасадах у Сав. Арміі, у апараце Міністэрства абароны СССР. Канд. у чл. ЦК КПСС у 1956—68. Дэп. ВС СССР у 1946—50 і з 1958. Чл. ЦКК КП(б)Б у 1932—34. Чл. ЦВК БССР у 1931—35. Імем Р. названы праспект у Мінску, вуліцы ў Гомелі, Бабруйску, Пінску, інш. гарадах, гар. пасёлках і вёсках. У Бел. дзярж. музеі гісторыі Вял. Айч. вайны і ў Лоеўскім музеі «Бітвы за Дняпро» захоўваюцца яго асабістыя рэчы. Ганаровы грамадзянін г. Гомеля.

**РАКІЦКІ** Станіслаў Пятровіч (27.2. 1910, в. Тварычаўка Мазырскага р-на — 1985), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Палескай вобл. Чл. КПСС з 1940. Скончыў Вышэйшую камуніст. с.-г. школу Беларусі імя Леніна (1936). З 1930 на сав., камсам. і гасп. рабоце. З кастр. 1941 адзін з кіраўнікоў групы *Мазырскага партыйна-камсамольскага падполля.* У партызанах з мая 1942: камандзір узвода, палітрук роты, з мая 1943 камісар *партызанскай брыгады 99-й Калінкавіцкай,* адначасова чл. Калінкавіцкага падп. РК КП(б)Б. У 1943—70 на сав., гасп. і адм. рабоце.

**РА́КУШАЎ** Леанід Нікіфаравіч [20. 3.1916, в. Ракушава (б. Ліхінічы) Круглянскага р-на — 1944], адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт.-камсам. падполля ў Круглянскім р-не. Чл. КПСС. Скончыў Краснадарскае арт.-мінамётнае вучылішча (1937). Удзельнік сав.-фінляндскай вайны 1939—40. У час Айч. вайны ўдзельнік абароны Магілёва; паранены, трапіў у палон. Восенню 1941 уцёк з палону, прабраўся на радзіму, дзе ў кастр. 1941 стварыў падп. групу. З студз. 1942 узначальваў падп. «Арганізацыю змагароў за вызваленне Радзімы» (гл. *Круглянскае партыйна-камсамольскае падполле*). 26.12.1943 арыштаваны гітлераўцамі і пасля катаванняў пакараны смерцю.

**РАЛЛЯ́**, вёска на тэр. Ушацкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на ПдЗ ад в. Капылоўшчына Кубліцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло больш за 30 чал. 1—2.5. 1944, у час карнай аперацыі, фашысты вёску (28 двароў) спалілі, маёмасць разрабавалі, 30 жыхароў, у т. л. 14 дзяцей, выгналі ў суседнюю вёску, дзе разам з жыхарамі інш. вёсак 12.5.1944 расстралялі і спалілі.

| 1 | 2 |
|---|---|
| «За Советскую Родину» | рах, Е. Р. Касяк (10.1 —6.5.1944, загінуў), Ф. К. Лайкоў (14.4 —1.6.1944, загінуў), В. І. Бурачэўскі (з 28.4.1944). |
| Куранецкі 17.10.1943—2.7.1944; «Народный мститель» | Сакратар В. Ф. Пацок; члены: Д. Я. Кадоўба, А. П. Аўсяннікаў (да 9.1.1944), В. І. Казлоў (з 4.1.1944). |
| Маладзечанскі 4.12.1943—28.6.1944; «Чырвоны сцяг» | Сакратар А. І. Доўгі; члены: Ю. А. Дзамашвілі, М. С. Рудэнка, М. Дз. Сямёнаў. |
| Міёрскі 29.8.1943—2.7.1944; «Кліч партызана» | Сакратары: Ф. Н. Гаўрыленка (1-ы сакратар), П. Л. Сафронаў (2-і сакратар з лют. 1944); члены: М. А. Клімёнак, Н. В. Лодзіс (да 18.10.1943, загінуў). |
| Мядзельскі 17.10.1943—4.7.1944 | Сакратары: А. І. Шаўчэнка (1-ы сакратар), І. Ф. Малыгін (2-і сакратар да сак. 1944), М. З. Умінскі (2-і сакратар з сак. 1944); члены: М. П. Верас (да студз. 1944), М. П. Падольны (з 7.2.1944), Дз. Н. Гардзіёнак (з 4.4.1944). |
| Пастаўскі 17.10.1943—4.7.1944; «За победу» | Сакратар І. М. Яўмененка; члены: М. П. Падольны (да 7.2.1944), С. А. Пранько, М. П. Кніга (з 2.1.1944), Ц. Я. Ульянаў (з 6.6.1944). |
| Пліскі 29.8.1943—2.7.1944; «За свабоду» | Сакратары: Ф. К. Юрчанка («Вятроў», да мая 1944), А. М. Кулічкоў (з сак. 1944); члены: Г. І. Кісялёва, М. Я. Усаў, І. І. Юкша. |
| Радашковіцкі 6.1—1.7.1944; «Смерть фашистам» | Сакратар П. Г. Садонін; члены:М. Л. Муц, П. В. Тукаль. |
| Свірскі 28.9.1943—4.7.1944; «Чырвоны сцяг» | Сакратар Д. І. Маргыненка; члены: Ф. І. Ларыёнаў (да 20.4.1944), В. В. Шынкевіч, С. Р. Суслаў (з 20.4.1944). |
| Смаргонскі 9.1—2.7.1944 | Сакратар А. П. Аўсяннікаў; члены: В. Т. Бацечка, І. І. Пётух (да 4.3.1944), В. І. Карпенка (з 4.3.1944). |
| Шаркоўшчынскі 11.9.1943—2.7.1944; «Народный мститель» | Сакратар Ф. К. Акулаў; члены: М. С. Гусеў, М. У. Кандрашчанка (з 7.2.1944), П. М. Шырокаў. |
| | ВІЦЕБСКАЯ ВОБЛАСЦЬ [*Працавала 20 падпольных РК КП(б)Б*] |
| Аршанскі 19.6.1943—28.6.1944; «Ленинский призыв» | Сакратары: Л. І. Сяліцкі (1-ы сакратар да мая 1944), Л. Н. Анкіновіч (2-і сакратар да вер. 1943), К. Я. Гурын (2-і сакратар з 25.11.1943); члены: Б. К. Іваноў, А. П. Максіменка (да 10.3.1944), Гурын, У. М. Верхаводзька (з 2.4.1944). |
| Асвейскі ліп.— кастр. 1941 | Сакратары: С. Б. Гелер, П. В. Цішкоў; член С. П. Дробат. |
| 27.6.1942—31.12.1943; «Ленінскі шлях» | Сакратары: І. К. Захараў (1-ы сакратар), П. П. Кузьміноў (2-і сакратар); члены: В. П. Уладзіміраў, К. І. Давыдзёнак (абодва да 1.11.1942), І. П. Пятрыенка, У. У. Сімацкі (да 17.10.1942, загінуў), І. А. Марачкоўскі (з 29.11.1942), Ф. А. Нікаленка (з 14.1.1943), А. І. Сяргушка (з 5.10.1943). |
| Багушэўскі 10.7 — кастр. 1941 | Сакратары: А. К. Стэльмах, П. П. Макаранка, Я. М. Прахарэнка. |
| 3.8.1942—29.6.1944; «Сталінскі шлях» | Сакратары: Стэльмах (да сак. 1943), Прахарэнка (з 30.1.1943), Л. Ф. Цуран (2-і сакратар да 23.9.1942); члены: П. М. Шарыпа, М. М. Дзятлоўскі (да 23.9.1942), Ф. М. Ігнаценка (да 9.3.1943), П. П. Лікса (да 23.9.1943), М. П. Крэсік (30.1—9.3.1943), С. Ф. Баркоўскі (з 5.5.1943), М. А. Астраўнёў (з 30.8.1943). |
| Бешанковіцкі 5.9.1942 — май 1944; «Сталінец» | Сакратар П. М. Раманаў (да мая 1944, загінуў); члены: Д. Е. Гарбачоў (1.11.1942—15.5.1943), Дз. П. Падалец (1.11.1942—15.11.1943), А. Ф. Мацулевіч (з 7.4.1943), К. К. Шастакова (25.5—15.11.1943), Г. П. Шалахава (з 25.9.1943), М. Я. Арцёмаў, П. А. Арлоў (абодва з 25.11.1943 да мая 1944, загінулі). |
| Ветрынскі 26.9.1942—1.7.1944; «Чырвоная звязда» | Сакратары: Дз. В. Цябут (да 7.4.1943, 2-і сакратар з 7.4.1943), Б. М. Данькоў (1-ы сакратар з 7.4.1943); члены: У. А. Лемза, Л. Л. Асіповіч, А. Ф. Маханькоў (7.8.1943). |
| Віцебскі 31.5.1942—1.11.1943; «За Родину» | Сакратар В. І. Когаль (да 19.5.1943, загінуў); члены: М. М. Залескі (да чэрв. 1942, загінуў), У. А. Хабараў (да 30.6.1943), М. Ф. Бірулін (з 9.6.1942), К. П. Уласенка (9.6.1942—30.6.1943), А. П. Максіменка (9.6. |

У 1964 на месцы расстрэлу пастаўлены абеліск, на месцы вёскі — стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**РАМАНАЎ** Аляксандр Васілевіч (н. 25.6.1918, в. Максакава Чарапавецкага р-на Валагодскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай і Вілейскай абл. Чл. КПСС з 1939.



М. Ц. Раманаў. П. М. Раманаў.

Скончыў ВПШ пры ЦК КПСС (1956). З чэрв. 1941 на Паўд. фронце. З кастр. 1941 камандзір узвода, камісар 17-га партыз. атрада асобага прызначэння, у ліп. 1942 — сак. 1943 камісар, у ліст. 1942 — сак. 1943 в. а. камандзіра, у сак. 1943 — ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады імя К. К. Ракасоўскага,* адначасова чл. Дунілавіцкага падп. РК КП(б)Б. Да 1978 на парт. і сав. рабоце ў Маладзечанскай і Мінскай абл. Аўтар кн. «На зямлі непакоранай» (1962).

**РАМАНАЎ** Герасім Нічыпаравіч (15.3.1904, с. Вял. Жураўка Аркадакскага р-на Саратаўскай вобл.— 1987), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1930. Скончыў Камуніст. ун-т у Арэнбургу (1936). З 1929 рабочы, на прафс. рабоце. З ліп. 1941 на фронце. У партызанах з крас. 1942: камісар атрада, у ліст. 1942 — сак. 1943 *партызанскай брыгады 1-й Мінскай,* потым камандзір атрада, адначасова чл. Чэрвеньскага і Пухавіцкага падп. РК КП(б)Б. У 1944—74 на гасп. рабоце ў Мінску.

**РАМАНАЎ** Міхаіл Цімафеевіч (17.11.1891, г. Горкі, РСФСР — снеж. 1941), адзін з кіраўнікоў *Магілёва абароны 1941,* ген.-маёр (1940). У арміі з 1915, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз., сав.-фінл. 1939—40 войнаў. У Айч. вайну камандзір 172-й стралк. дывізіі. Пад яго камандаваннем часці дывізіі і атрады нар. апалчэння тры малі кругавую абарону Магілёва. Цяжка паранены, трапіў у палон, закатаваны ў лагеры смерці.

**РАМАНАЎ** Павел Мінаевіч (1905, Чыта — 13.5.1944), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл., Герой Сав. Саюза

| 1 | 2 |
|---|---|
| | 1942—19.6.1943), В. Р. Кудзінаў (з 7.4.1943), П. Д. Дзяругін (з 30.6.1943). |
| Гарадоцкі<br>9.6.1942—4.11.1943 | Сакратар П. Я. Рыбакоў; члены: С. Т. Воранаў, М. П. Хахлоў, М. І. Гапеенка (з 7.4.1943), І. К. Оскер (з 7.4.1943). |
| Дрысенскі<br>18.7.1942—26.12.1943 | Сакратары: Р. П. Герасімаў (1-ы сакратар), А. І. Сяргушка (2-і сакратар з 20.8.1942 да 6.4.1943), В. А. Бохан (2-і сакратар з 6.4.1943); члены: Бохан, Ф. Ф. Шаблоўскі, А. І. Лісоўскі (з 25.6.1943). |
| 15.1—12.7.1944;<br>«Патрыёт Радзімы» | Сакратар Лісоўскі. |
| Дубровенскі<br>11.11.1943 — чэрв. 1944 | Сакратар І. І. Старавойтаў; члены: А. Ф. Данукалаў (да 27.4.1944, загінуў), М. І. Дрознік, К. П. Грыгор'еў, Я. Я. Пастнічэнка. |
| Лепельскі<br>1.8.1941—29.6.1944;<br>«Калгасная праўда» | Сакратары: У. Е. Лабанок (1-ы сакратар), А. А. Марунька (2-і сакратар з 15.9 да 22.12.1942, загінуў), І. Р. Булаўскі (2-і сакратар з 11.1 да 14.2.1943, загінуў), У. Л. Качан (2-і сакратар з 2.4. 1943); члены: К. А. Яско, П. В. Хацько (абодва з 15.9.1942 да 3.8.1943), М. Я. Цыкавой (з 11.1.1943), Дз. Ц. Караленка (3.8.1943—22.4.1944, загінуў), А. В. Ярмаш (з 3.8. 1943). |
| Лёзненскі<br>21.7.1942 — кастр. 1943 | Сакратары: А. Ц. Шчарбакоў (1-ы сакратар да 23.8. 1943), Ц. П. Шакінка (1-ы сакратар з 23.8.1943), Я. А. Букаін (2-і сакратар з мая 1943); члены: Букаін, А. Ф. Данукалаў (да мая 1943), Ф. Н. Шаірка (да мая 1943, загінуў), М. І. Шарстнёў (27.1 — май 1943), П. І. Кірылаў (з 11.5.1943), Шакінка (з 11.5.1943), Дз. Г. Пляшкоў (з 23.8.1943). |
| Мехаўскі<br>17.7—15.10.1941 | Сакратары: І. Т. Гуцаў, Е. І. Ярашэнка, В. І. Ізраіліт (загінуў); член К. Ф. Волкаў. |
| 9.6.1942—21.11.1943 | Сакратары: Я. Н. Барсукоў (1-ы сакратар да вер. 1943), М. Ф. Сафронаў (2-і сакратар да вер. 1943, сакратар з 9.10.1943); члены: Волкаў, П. М. Альшанскі, М. І. Дзячкоў, А. А. Сцяпанаў (усе чацвёра да 4.3.1943), А. Л. Папоў (з 7.4.1943). |
| Полацкі<br>6.6.1942—15.11.1943;<br>«Бальшавіцкі шлях» | Сакратары: Г. С. Пятроў (да 20.8.1942, 2-і сакратар з 20.8.1942), М. А. Новікаў (1-ы сакратар з 20.8.1942 да мая 1943); члены: А. Я. Марчанка, У. К. Шэндзелеў, П. М. Бардоў (з 27.8.1942), Ф. Т. Шэдаў (з 27.8.1942). |
| Расонскі<br>16.7 — снеж. 1941 | Сакратары: В. Я. Лапенка, С. П. Белы, В. П. Гудына; члены: Я. П. Васілевіч, Р. М. Майкоў. |
| 29.5.1942—3.11.1943;<br>«Сацыялістычная праца» | Сакратары: Лапенка (да 6.10.1942, загінуў), Васілевіч (з 1.11.1942); члены: Р. А. Ахоцін, П. І. Сідарэнка, Васілевіч (з 10.8.1942), В. І. Канавалаў (з 10.8.1942), Я. І. Шаршнёў, П. Я. Рубіс (абодва з 30.10.1942), Н. П. Бялоў (з 4.11.1942). |
| Сенненскі<br>5.4.1943—26.6.1944;<br>«Бальшавіцкая трыбуна» | Сакратары: М. Ц. Любімцаў (1-ы сакратар), М. І. Мізоўцаў (2-і сакратар з 8.6 да снеж. 1943); члены: Л. Н. Анкіновіч, Л. І. Сяліцкі (абодва да 8.6.1943), В. С. Лявонаў (з 8.6.1943), У. Дз. Жыгалоўскі, В. А. Асінскі (абодва з 25.8.1943), П. І. Палітык (з 10.4.1944). |
| Сіроцінскі<br>кастр. 1941—2.7.1944 | Сакратары: В. М. Фралоў (да 14.3.1943), С. М. Кароткін (6.7—6.10.1942, загінуў), А. У. Сіпко (з сак. 1943); члены: Сіпко, А. Б. Эрдман (20.8.1942—14.3.1943, з вер. 1943), А. Р. Сямёнаў (з 20.8.1942), Н. Л. Герман (з 1.11.1942), М. І. Макараў (20.6.1943 — крас. 1944), Ф. А. Волкаў (з 26.7.1943), П. І. Баранаў (7.4—3.11. 1943), М. А. Сакмаркін (з 7.4.1943), М. Ф. Ляхаў (20.6 — вер. 1943). |
| Суражскі<br>12.5.1942—26.10.1943;<br>«Партызан» | Сакратары: І. Ф. Бардзіян (1-ы сакратар да 12.6.1943), Ц. Р. Кавалеўскі (1-ы сакратар з 12.6.1943), П. М. Раманаў (2-і сакратар да 5.9.1942); члены: Р. У. Шкрэда, А. Я. Бабылёў (да 25.1.1943), М. П. Шмыроў (да 25.1.1943), І. Ф. Міканенка (да 7.3.1943), С. І. Мяльянцаў (да 7.4.1943), Я. З. Захараў (з 25.1.1943), Дз. П. Левін (25.1 — ліп. 1943, загінуў), А. М. Бруеў, В. Я. Шаракоў, А. М. Шутаў (усе трое з 18.9.1943). |
| Талачынскі<br>8.7.1943—26.6.1944; | Сакратары: С. М. Нарчук (да 28.5.1944), А. П. Пахамо- |

(1944). Чл. КПСС з 1929. З 1931 на парт. і сав. рабоце. З мая 1942 2-і сакратар Суражскага, з вер. 1942 1-ы сакратар Бешанковіцкага падп. РК КП(б)Б, адначасова з кастр. 1942 камандзір *партызанскай брыгады «За Савецкую Беларусь»*. Загінуў у баі. Яго імем названы вуліцы ў Бешанковічах, Добрушы, Уле, саўгас у Бешанковіцкім р-не.

**РАМАНЕ́НКА** Пракоп (Пётр) Логвінавіч (25.2.1897, хутар Раманенкі, Ро-

П. Л. Раманенка. М. Я. Раманькоў.



менскі р-н Сумскай вобл. — 10.3. 1949), ген.-палк. (1944). Чл. КПСС з 1920. Скончыў ваен. акадэміі імя Фрунзе (1933), Генштаба (1948). У арміі з 1914, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік войнаў: 1-й сусв., грамадз., нац.-рэв. у Іспаніі 1936—39, сав.-фінл. 1939—40. У Айч. вайну з 1942 на Зах., Бранскім, Паўд.-Зах., 1-м Бел. франтах: камандуючы арміямі, нам. камандуючага фронтам. Удзельнік Сталінградскай і Курскай бітваў. У час вызвалення Беларусі камандуючы 48-й арміяй, якая ўдзельнічала ў *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943*, *Бабруйскай аперацыі 1944*, *Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944*. У 1945—47 камандуючы Усх.-Сібірскай ваен. акругай. Дэп. ВС СССР з 1946.

**РАМАНЬКО́Ў** Міхаіл Ягоравіч (6.2. 1926, в. Дубінка Магілёўскага р-на — 9.7.1966), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1949. Удзельнік партыз. руху на Беларусі, з 1944 на 2-м і 3-м Бел. франтах. Камандзір кулямётнага разліку мал. сяржант Р. вызначыўся ў баях ва Усх. Прусіі. 22.3.1945 пад Кёнігсбергам знішчыў 2 станковых кулямёты і каля 100 гітлераўцаў. 5—6.5.1945 у баі на касе Фрыш-Нерунг абышоў ворага і агнём з тылу знішчыў каля 70 варожых салдат і афіцэраў, чым спрыяў акружэнню і разгрому праціўніка.

**РАМА́ШКА** Мікалай Васілевіч (13.10. 1913, в. Дусаеўшчына Капыльскага р-на — 30.6.1944), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1939. З 1941 на Паўн.-Зах., 2-м Бел. франтах. Нам. камандзіра зенітнага артпалка па палітрабоце маёр Р. вызначыўся ў *Беларускай аперацыі 1944*. 30.6.1944 у час абароны чыг. моста і пераправы цераз р. Бярэзіна каля в. Свіслач

| 1 | 2 |
|---|---|
| «Чырвоны хлебароб» | віч (з мая 1944); члены: Пахамовіч, П. С. Ракаў (да 30.5.1944, загінуў), М. П. Гудкоў (з 7.9.1943), М. І. Дзячкоў (з 30.11.1943). |
| Ушацкі 6.7.1942—29.6.1944; «Прымежны калгаснік» | Сакратары: І. Ф. Каранеўскі (да 4.5.1944, загінуў), М. Х. Федарэнка (2-і сакратар з 1.4.1943 да лют. 1944), М. І. Ястрабаў (2-і сакратар з 17.2.1944), С. Б. Боркар (3-і сакратар з 17.2 да мая 1944, загінула); члены: У. В. Мельнікаў, Боркар, М. А. Цябут (да 15.8.1943), Р. Р. Стрыжонак (з 1.9.1943), У. Я. Васілеўскі (з 17.2.1944). |
| Чашніцкі 15.9.1942—28.6.1944; «Сцяг сацыялізма» | Сакратары: Ф. Ф. Дуброўскі (1-ы сакратар), В. Ф. Вітко (2-і сакратар да 2.4.1944, загінуў), С. Я. Барадаўкін (2-і сакратар з 1.5.1943 да 1.3.1944); члены: Барадаўкін, М. Ф. Карабань (да 12.4.1944), Я. С. Шасцярэнь (да 12.4.1944), А. П. Кузмічонак, І. С. Саламонаў, Р. П. Шчэрбік (усе трое з 12.4.1944), М. В. Старынскі (4.3.1943—12.4.1944). |
| | ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ [*Працавала 13 падпольных РК КП(б)Б*] |
| Буда-Кашалёўскі сак.—23.11.1943; «Ленінскі шлях» | Сакратары: С. І. Касьянаў (1-ы сакратар), Р. Я. Стрыкаў (2-і сакратар з 15.5 да 3.10.1943); члены: Б. М. Гейфман, А. М. Дземчанка (абодва з 15.5 да 3.10.1943), А. Ц. Дзенісенка (з 15.5.1943). |
| Веткаўскі вер.— 2.10.1943 | Сакратар П. Е. Чамярыцкі; члены: І. П. Каротчыкаў, К. Н. Селязнёў. |
| Добрушскі чэрв.— 27.9.1943 | Сакратар І. М. Гатальскі; члены: І. П. Крывенчанка, М. А. Міхайлашаў. |
| Жлобінскі май — 25.11.1943; «Шлях сацыялізма» | Сакратары: І. А. Крышнёў (да вер. 1943), Г. В. Злынаў (з вер. 1943); члены: М. Г. Маршын, Ф. В. Сполахаў, А. І. Севасцьянчык (усе трое з вер. 1943), А. І. Карунчык, Злынаў. |
| Журавіцкі 8.3—2.10.1943; «Партызан Гомельшчыны» (з 20.8.1943 на рус. мове) | Сакратары: І. М. Дзікан (да вер. 1943), С. П. Дзівачэнка (з вер. 1943); члены: А. Ф. Ганчароў, Я. І. Штапенка, С. М. Белых (да крас. 1943, загінуў), Дзівачэнка. |
| Кармянскі 15.8.1941—2.10.1943 | Сакратары: М. С. Бруек (да 17.12.1942), І. А. Асташонак; члены: Ц. В. Конанаў, А. В. Кузмянкоў, А. І. Ушаў (усе трое з 16.7.1943), С. Р. Яўдачкаў. |
| Лоеўскі 26.8.1941—24.11.1943; «Наша перамога» | Сакратары: М. І. Анішчанка (да лют. 1943), Р. І. Сінякоў, С. В. Дундукоў (да жн. 1942); члены: Н. А. Жмодзікаў (з 16.12.1942), С. А. Гардзееў, Р. Н. Канаваленка, А. М. Акунёў (усе трое з ліп. 1943). |
| Рагачоўскі 15.8.1941—28.6.1944; «Камунар» | Сакратары: С. М. Свярдлоў (да 6.7.1943), І. Ц. Зуевіч; члены: К. М. Драчоў (да 2.10.1943), А. А. Бірукоў (да 1.6.1943), В. У. Паўлаў (з 1.2.1943), Ф. С. Тарасевіч (30.6.1943—15.2.1944), В. А. Мінайлаў (з 13.7.1943), Ц. Т. Ціхаміраў (з 19.1.1944). |
| Рэчыцкі 24.11.1942—17.11.1943; «Зара камуны» | Сакратар В. П. Палавінка; члены: А. Я. Міхайлаў, М. Ф. Турчынскі (абодва да 31.7.1943), С. А. Ягуткін, К. І. Раманаў, В. П. Цітоў (усе трое з 31.7.1943), У. Р. Хамёнак. |
| Свяцілавіцкі жн. — 2.10.1943 | Сакратар А. П. Габрусёў; члены: Я. Л. Гаўрыленка, М. І. Юрчанка. |
| Стрэшынскі май — 21.11.1943; «Сталінскі шлях» | Сакратары: Дз. Ц. Шыбінскі (да ліп. 1943), А. І. Севасцьянчык (ліп.—вер. 1943), Я. Р. Садавой (з вер. 1943); члены: І. І. Бандарэнка, М. Дз. Антуськоў, М. П. Кручкоў (усе трое з вер. 1943). |
| Уваравіцкі 1.3—23.11.1943; «Калектывіст» | Сакратар В. В. Юдзін; члены: Дз. Ц. Духвалаў, П. Ф. Шкробышаў (абодва з 5.6.1943). |
| Чачэрскі 16.8.1941—2.10.1943; «Смерть оккупантам» | Сакратары: М. Ц. Падаляк (1-ы сакратар да кастр. 1941 і з мая 1943), П. І. Дзедзік (2-і сакратар да 5.7.1943), Х. М. Шкляр (3-і сакратар да кастр. 1941); члены: Ц. К. Кароткі, Ф. Н. Марголіна, П. П. Палойнікаў (усе трое з мая 1943), М. І. Юрчанка (май — жн. 1943), П. А. Балыкоў. |

Асіповіцкага р-на зенітны полк з удзелам Р. адбіў некалькі контратак ворага. У баі Р. замяніў камандзіра кулямётнай роты, знішчыў каля 200 гітлераўцаў. Загінуў у гэтым баі. Пахаваны ў Магілёве. Яго імем названы вуліцы ў Капылі, Магілёве, у р. п. Ялізава Асіповіцкага р-на і на радзіме — у в. Дусаеўшчына, дзе Р. пастаўлены помнік.

М. В. Рамашка. М. І. Рапосаў.



**РАПО́САЎ** Мікалай Іванавіч (н. 6.5. 1909, г. Сяроў Свярдлоўскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1945), ген.-маёр (1944). Чл. КПСС з 1930. Скончыў Маскоўскую парт. школу (1933), Ваен.-паліт. акадэмію імя Леніна (1941), Ваен. акадэмію Генштаба (1949). З 1941 на Зах., Калінінскім, Цэнтр., 3-м Бел. і 2-м Далёкаўсх. франтах. Удзельнік Маскоўскай і Курскай бітваў, штурму Кёнігсберга, разгрому японскіх войск. Нач. паліт-аддзела 31-й арміі, чл. ваен. саветаў 2-й гвард. і 16-й армій Р. вызначыўся ў *Беларускай аперацыі 1944.* Пад яго кіраўніцтвам праводзілася вял. палітыка-выхаваўчая работа па мабілізацыі воінаў на выкананне баявых задач. Пры вызваленні Оршы, Барысава, Мінска, Ліды, Гродна знаходзіўся ў перадавых часцях.

**РАСО́НСКА-АСВЕ́ЙСКАЯ ПАРТЫЗА́НСКАЯ ЗО́НА,** тэрыторыя на Пн Віцебскай вобл., якую кантралявалі партызаны. У маі 1942 партызаны разграмілі паліцэйскія ўчасткі і валасныя ўправы на тэр. 10 сельсаветаў Расонскага р-на, да кастр. вызвалілі ад ням.-фаш. акупантаў тэр. Расонскага, Асвейскага, ч. Дрысенскага і Полацкага р-наў, у т. л. райцэнтры Расоны, Асвею і мяст. Клясціцы. У канцы 1942 партызаны ўтрымлівалі каля 1,8 тыс. км$^2$, вясной 1943 — 5 тыс. км$^2$. Вызваленая тэр. стала часткай партыз. краю, створанага рус., бел. і латышскімі партызанамі на стыку РСФСР, БССР і Латвіі (10 тыс. км$^2$, больш за 100 тыс. чал.). З чэрв. 1942 да снеж. 1943 зону абаранялі партыз. фарміраванні Расонскага, Асвейскага, Дрысенскага р-наў, партыз. брыгады Калінінскай вобл. РСФСР,

| 1 | 2 |
|---|---|
| **МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ** [*Працавала 18 падпольных РК КП(б)Б*] | |
| Асіповіцкі<br>ліп. 1941—2.7.1944;<br>«За Советскую Родину» | Сакратары: Р. Х. Голант (да 2.4.1943, потым 2-і сакратар), А. В. Шыянок (да 2.4.1943), Р. М. Вайцянкоў (1-ы сакратар з 2.4.1943); члены: М. П. Каралёў (да 8.3.1944), М. Р. Гарэлік, П. В. Трацэўскі (абодва з 22.9.1942), І. М. Стэльмах (22.9.1942—26.5.1943), І. Б. Гнядзько (26.5.1943—28.5.1944). |
| Бабруйскі<br>2.9.1942—30.6.1944;<br>«Бобруйский партизан» | Сакратар Д. М. Лемяшонак (да 29.11.1943); члены: Р. Н. Акуліч (з 18.9.1943), В. І. Лівенцаў (16.10.1942—29.11.1943), М. І. Сямісалаў (16.10.1942—14.4.1943, загінуў), А. К. Флегантаў (2.11.1942—18.1.1943), Дз. А. Ляпёшкін (18.1—29.11.1943), С. З. Крамнёў (30.6—29.11.1943), П. І. Тамковіч (12—29.11.1943), М. Б. Храпко (з 12.11.1943). |
| Быхаўскі<br>7.3.1943—24.2.1944;<br>«Партизан Быховщины» | Сакратары: К. Л. Адасеў (да 17.3.1943), Е. Ц. Андрэенкаў (17.3—15.11.1943), Ф. П. Падалян (з 15.11.1943); члены: М. П. Куракін, Ц. І. Ляўшынскі, Ф. І. Лукашоў, С. П. Каспрук (да 10.5.1943), Падалян (з 15.4.1943), І. П. Федзячэнка (з 15.12.1943). |
| Бялыніцкі<br>8.3.1943—30.6.1944;<br>«Народные мстители» | Сакратары: Дз. П. Белахвостаў (да жн. 1943), В. І. Падаляка (з жн. 1943); члены: В. Ц. Андрэенка (да 15.9.1943), З. П. Гапонаў (да 2.5.1944), І. В. Кудлаў (да 7.5.1943, загінуў), С. М. Левянец, А. І. Цмыг (з 7.6.1943), В. Ц. Някрасаў (з 6.9.1943), В. М. Барановўскі (з 21.5.1944). |
| Бярэзінскі<br>20.7.1942—2.7.1944;<br>«Сцяг Леніна» | Сакратары: І. П. Сакалоўскі (да крас. 1944), К. А. Баранаў (з крас. 1944); члены А. Ц. Патупчык, С. Ц. Крыварот (да лют. 1943), І. А. Лескавец (да 23.3.1943), С. А. Яроцкі (да вер. 1943), Баранаў (з лют. 1943), А. В. Яблонскі (3.5—12.6.1943), М. С. Лапцёнак (12.6—17.9.1943), В. К. Дзяруга, Р. Л. Палянскі (абодва з 25.11.1943). |
| Горацкі<br>28.8—2.12.1943 | Сакратар П. В. Цішкоў; члены: А. А. Аўсяннікаў, П. С. Равякоў, М. Ф. Коршунаў, А. В. Шульгін. |
| Касцюковіцкі<br>6.5—28.9.1943;<br>«Сталинский призыв» | Сакратар В. І. Сырамятнікаў; члены: К. Я. Баброў, Ф. М. Сусько, П. Я. Чарнагузаў (з 18.8.1943). |
| Кіраўскі<br>5.10.1942—27.6.1944;<br>«Кировец» | Сакратары: А. І. Бычкоў (да 12.7.1943), Г. Л. Комар (з 12.7.1943); члены: С. М. Беразоўскі (да 9.11.1942, загінуў), А. У. Бай (да 26.5.1944), Я. С. Дабрынскі, В. Л. Нікіцін, Комар (з 21.2.1943), С. І. Свірыд (з 13.7.1943), П. П. Анікін, Н. Г. Дамарад (абодва з 7.6.1944) |
| Клімавіцкі<br>12.6—30.7.1943;<br>«За Советскую Родину» | Сакратар І. С. Салдаценка; члены: Ф. М. Астапенка, С. А. Мазур, І. Ф. Манцур, Ф. Ф. Сігаеў. |
| Клічаўскі<br>4.4.1942—28.6.1944;<br>«Голас партызана» | Сакратары: Я. І. Заяц (да 14.5.1944), П. М. Вікторчык (з 14.5.1944); члены: І. П. Крыскавец (да 30.5.1943), Вікторчык, С. А. Мазур (да 30.5.1943), У. П. Раманенка (да 18.9.1942), І. А. Лебедзеў (з 20.9.1942), М. І. Кніга (30.5—24.10.1943), С. М. Патупчык (з 30.5.1943), І. З. Ізох (з 15.7.1943), Р. А. Шрамякоў (з 14.5.1944). |
| Краснапольскі<br>15.8—1.10.1943;<br>«Красное знамя» | Сакратар С. М. Карзюкоў; члены: К. І. Дудараў, Х. Калімулін, В. К. Арлоўскі, П. М. Марчанка, М. Ц. Пералечкін. |
| Круглянскі<br>13.3.1943—29.6.1944;<br>«Партизанский путь» | Сакратар П. С. Новікаў; члены: С. М. Ганчароў, М. К. Сушко, П. Я. Мякаценка (да 1.9.1943), Дз. А. Смагін (да 24.6.1943), Дз. А. Кулікоў (з 1.9.1943), С. Г. Жунін (13.8—5.12.1943), І. Г. Ільін (з 5.12.1943). |
| Магілёўскі<br>8.3.1943—30.6.1944;<br>«Партизанская правда» | Сакратары: В. І. Падаляка (12.3—жн. 1943), І. П. Станкевіч (з жн. 1943); члены: К. М. Белавусаў (да 26.4.1944), В. Ц. Някрасаў (5.6—31.8.1943), І. В. Дубіеў (да 2.5.1944), К. Л. Адасеў (17.3.1943—26.4.1944), І. С. Зычкоў (12.3—5.6.1943), В. І. Новікаў (з 30.6.1943), А. М. Касаеў (31.8.1943—18.2.1944, загінуў), З. П. Гапонаў, І. Г. Гурыеў, І. М. Іваноў, М. В. Пакатаеў (усе чацвёра з 2.5.1944). |

латышскія партыз. брыгады. Дзейнасць партызан накіроўвалі ЦК КП(б)Б, *Паўночна-Заходняя аператыўная група ЦК КП(б)Б* (да вер. 1942), БШПР, мясцовыя парт. органы. Зону ўтрымлівалі брыгады Расонская імя Сталіна, Асвейская імя Фрунзе, 1-я Дрысенская, імя Ракасоўскага (да сак. 1943 «За Савецкую Беларусь») і інш. На тэр. зоны знаходзіліся некаторы час брыгады «За Савецкую Беларусь», 3-я і 4-я Беларускія, імя С. М. Кароткіна, 1-я і 3-я Калінінскія, латышскі атрад В. П. Самсона (потым брыгада).

У зоне была адноўлена Сав. ўлада. На яе тэр. базіраваліся Дрысенскі, Асвейскі, Расонскі падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ. Выдаваліся раённыя газеты. У Расонскім р-не вясной 1942 працавалі 7 млыноў, 12 гарбарных прадпрыемстваў, 13 рамонтна-пашывачных, кавальска-такарна-слясарныя майстэрні, 7 хлебапякарняў, электрастанцыя. Падтрымлівалася двухбаковая радыёсувязь з Вял. зямлёй. У вёсках Сяляўшчына, Роўнае Поле і Забор'е Расонскага р-на дзейнічалі *партызанскія аэрадромы* і пасадачныя пляцоўкі. У 1943 на Сяляўшчынскі аэрадром дастаўлена больш за 300 т баявых грузаў для 20 партыз. брыгад.



**Група арганізатараў партызанскага руху ў Расонскім і Асвейскім р-нах. Злева направа: А. М. Гром, І. К. Захараў, С. Б. Пятроўскі, М. Я. Гігелеў, П. М. Машэраў. 1942.**

Гітлераўцы неаднаразова спрабавалі ліквідаваць зону. Баі па абароне зоны ад ням.-фаш. захопнікаў ішлі бесперапынна з чэрв. 1942. Зона неаднаразова пераходзіла з рук у рукі і была ператворана гітлераўцамі ў «выпаленую зямлю». На яе тэр. акупанты спалілі поўнасцю разам з усімі ці большасцю жыхароў каля 100 вёсак, яны не былі адноўлены пасля вайны. Камандаваннем ням. групы армій «Цэнтр» перад 201-й ахоўнай дывізіяй у чэрв. 1942 была пастаўлена задача «...канчаткова уціхамірыць Расонскі раён і замацавацца ў ім...». Аднак першыя ж спробы карнікаў уварвацца ў зону з Пд і У былі спынены партыз. атрадамі, якімі кіраваў Аб'яднаны штаб партыз. атрадаў Расонскага р-на (на чале з Р. А. *Ахоціным* і В. Я. *Лапенка*). У ліп. гітлераўцы павялі наступленне паміж станцыямі Полацк і Дрэтунь з Пн і Пд ад чыгункі Полацк—Невель (карныя аперацыі № 12, 13, 14). На ўсіх напрамках ням.-фаш. захопнікі былі

| 1 | 2 |
|---|---|
| Мсціслаўскі<br>28.8—23.9.1943 | Сакратар В. В. Уласаў; члены: Дз. Ф. Вайстроў, Ц. Я. Сакалоўскі. |
| Прапойскі<br>12.8—1.10.1943;<br>«За Советскую Родину» | Сакратар М. М. Нікіцін; члены: В. Я. Гапееў, С. Ф. Саўчанка, В. П. Самусенка, М. П. Хаблоў. |
| Чавускі<br>25.6—1.10.1943 | Сакратары: В. С. Калабін, М. Ф. Спяранскі (сакратар па прапагандзе з 23.7.1943); члены: І. І. Галубоўскі, Дз. І. Коган, І. К. Сушчэўскі, Спяранскі. |
| Чэрыкаўскі<br>ліп.— снеж. 1941<br>4.6—1.10.1943 | Сакратар Г. А. Храмовіч; члены: Л. М. Кроль (з ліп. 1941), В. П. Шчаўлікаў (да снеж., загінуў), М. П. Галенка, М. Л. Іваноўскі, І. І. Касцючэнка, М. П. Фёдараў (усе чацвёра з 4.6.1943), М. М. Купрыяшын (з 13.8.1943). |
| Шклоўскі<br>28.6.1943—29.6.1944;<br>«За Родину» | Сакратары: Ф. І. Букштынаў (да 26.5. 1944), А. У. Бай (з 26.5.1944), М. П. Куракін (сакратар па прапагандзе з 26.5.1944); члены: Ш. Л. Кеслер, Г. А. Кірпіч, Ф. Ц. Сіялка, І. С. Шчарбакоў. |
| | МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ<br>[*Працавала 25 падпольных РК КП(б)Б*] |
| Бягомльскі<br>3.8.1942—28.6.1944;<br>«Советский патриот» | Сакратары: С. С. Манковіч (да 12.12.1943), Ф. І. Дзернушкоў (з 12.12.1943); члены: Дзернушкоў, А. М. Касцяневіч, С. Я. Мальчык, А. Я. Чарноў (да 4.12.1943), С. В. Барздыка (да19.1.1944), Г. В. Шараеў (з 11.8.1942). |
| Варашылаўскі<br>г. Мінска<br>май — вер. 1942 | Сакратар М. А. Шугаеў. |
| Грэскі<br>12.3.1943—29.6.1944;<br>«Сталінец» | Сакратары: І. І. Пузевіч (да 28.5.1943), У. І. Заяц (з 28.5.1943); члены: І. В. Арастовіч, Р. А. Сківіцкі, І. С. Юдзіцкі, А. М. Каляда (да 12.5.1943 і з 30.6.1943), П. І. Разувакін (да 30.6.1943), А. М. Басаковіч (да 17.8.1943), А. Ц. Міновіч (з 17.8.1943), Пузевіч. |
| Дзяржынскі<br>кастр. 1942—4.7.1944;<br>«Ленінская праўда» | Сакратары: В. Л. Герасімовіч (да 7.4.1943), П. Р. Мартысюк (з 7.4.1943); члены: У. Т. Гаваркоўскі, Мартысюк, Я. П. Грыцаневіч (7.4 —29.8.1943), М. Ю. Баранаў, С. П. Піткевіч (абодва з 12.5.1943), А. М. Шалай (з 25.11.1943), А. В. Ігнатаў (з 29.1.1944), А. А. Пупейка (з 22.3.1944). |
| Заслаўскі<br>снеж. 1942—2.7.1944;<br>«Мы отомстим» | Сакратары: І. Ф. Дубовік (1-ы сакратар да 27.5.1944), І. М. Фёдараў (2-і сакратар да 10.6.1944); члены: А. К. Юлін (да 4.8.1943), У. В. Патомскі (4.8.1943—10.6.1944, загінуў), Т. М. Качан (снеж. 1943—10.6.1944, загінуў), І. М. Петрашкевіч (з снеж. 1943). |
| Капыльскі<br>7.4.1943—1.7.1944;<br>«Калгаснік Капыльшчыны» | Сакратары: І. К. Жыжык (да 28.5.1943), Н. Дз. Емяльянаў (з 28.5.1943), К. М. Клюйко (студз.— крас. 1944); члены: П. С. Лагвіненка, Р. П. Дзяжко (да мая 1943), Жыжык (28.5 – ліп. 1943, загінуў), М. А. Шастапалаў (з 12.7.1943), А. А. Кандыбовіч (з 31.8.1943), П. Ф. Салаўёва (з крас. 1944). |
| Кастрычніцкі<br>г. Мінска<br>май — вер. 1942 | Сакратары: К. І. Хмялеўскі, М. К. Каржанеўскі (з ліп. 1942). |
| Крупскі<br>10.5.1943—1.7.1944;<br>«Партизанский путь» | Сакратары: В. В. Шчарбакоў, І. Ф. Ісачанка (нам. сакратара); члены: Ф. Р. Коршун, М. Д. Міснікаў (абодва з 10.12.1943), Р. А. Буевіч. |
| Лагойскі<br>ліст. 1942—30.6.1944;<br>«За Савецкую Беларусь» | Сакратары: І. М. Цімчук (да 10.9.1943), А. І. Фурс (в. а. сакратара з 10.9.1943); члены: І. М. Астахаў (да 29.11.1943), М. М. Андрэеў (з 10.9.1943), М. П. Бубер (17.2 — чэрв. 1944, загінуў), Л. Л. Марозаў (з 17.2. 1944). |
| Любанскі<br>21.3.1943—1.7.1944;<br>«Кліч Радзімы» | Сакратар А. А. Баравік; члены: А. І. Далідовіч, А. С. Луфераў, І. Дз. Ламашка, Дз. П. Бароцька. |
| Мінскі<br>кастр. 1942—2.7.1944;<br>«Шлях сацыялізма» | Сакратары: І. Д. Пекун (да 21.4.1943), Г. Р. Чарняўскі (21.4—16.9.1943), М. М. Альхімовіч (з 15.9.1943), І. А. Лапідус (2-і сакратар з ліп. 1943); члены: Ф. С. Жабін (7.12.1942—21.4.1943), Лапідус (з 7.12. |

спынены, а потым адкінуты на зыходныя пазіцыі сіламі партыз. атрадаў «Няўлоўныя», імя Сталіна, імя Чапаева, імя Калініна і імя Варашылава (гл. ў арт. *Партызанская брыгада Расонская імя І. В. Сталіна*). Найбольш кровапралітныя баі па абароне зоны ад карнікаў летам — восенню 1942 адбываліся ў раёне вёсак Асёткі Асвейскага р-на, Рум, Прудок, Краснаполле Расонскага р-на. Праваліліся і карныя аперацыі (у т. л. *«Пантэра» № 32*), якія праводзіліся гітлераўцамі летам — восенню 1942. У студз. 1943 ням.-фаш. захопнікі прадпрынялі новую спробу — масіраваным ударам з боку воз. Асвейскае на З і ад чыгункі Полацк—Невель на У сціснуць партыз. сілы паміж рэкамі Свольна і Дрыса, адрэзаць шляхі адыходу ў паўд. напрамках і разграміць іх. Да 11 лютага партызаны стрымлівалі карнікаў на загадзя падрыхтаваных рубяжах абароны, потым без аператыўнай паўзы перайшлі ў наступленне і выгналі ворага з зоны (гл. *«Заяц-бяляк»*). Аднак гітлераўцы падцягнулі новыя сілы і 14 лютага пачалі наступленне (гл. *«Зімовае чараўніцтва»*). Каб пазбегнуць барацьбы на двух франтах, партызаны нанеслі на Расонска-Дрэтунскім напрамку вырашальны апераджальны контрудар па ўсх. групоўцы праціўніка. Заходняй, больш моцнай групоўцы, партызаны проціпаставілі тактыку актыўнай абароны, абяскроўлівалі ворага на загадзя падрыхтаваных рубяжах, рухомыя групы партызан наносілі ўдары па тылах і камунікацыях карнікаў. З мэтай больш аператыўнай каардынацыі дзеянняў партызан па ініцыятыве прадстаўніка ЦК КП(б)Б і БШПР А. Ф. Бардадына быў створаны аб'яднаны штаб партыз. сіл. У яго ўвайшлі: Бардадын, адказны сакратар Віцебскага падп. абкома партыі Б. І. Мажайскі, прадстаўнік Калінінскага штаба партыз. руху А. І. Штрахаў, сакратар Расонскага падп. РК КП(б)Б Я. П. *Васілевіч*, камбрыг І. К. *Захараў*, кіраўнік аператыўнай групы ЦК КП(б) Латвіі К. М. Озалінь. Паводле загаду штаба асн. сілы партызан і тысячы жыхароў Асвейскага р-на пачалі адыход за р. Свольна. Апошні рубеж абароны працягласцю больш за 30 км па фронце быў створаны партызанамі і насельніцтвам на ўсх. беразе р. Свольна ад в. Лісна да в. Дзярновічы. Да 20.3.1943 партызаны стрымлівалі націск ворага, а потым самі перайшлі ў наступленне і праз некалькі дзён поўнасцю ачысцілі ад ворага большую ч. Асвейскага і Дрысенскага р-наў. Восенню 1943 ням.-фаш. камандаванне пачало распрацоўку яшчэ больш буйной карнай аперацыі супраць Р.-А. п. з., якую гітлераўцы называлі «бандыцкай рэспублікай Расоны». 31.10.1943 пачалося новае

| 1 | 2 |
|---|---|
| | 1942), У. Е. Крайко (з 21.4.1943), І. П. Немчык (з 13.5. 1943). |
| Плешчаніцкі кастр. 1942 — 1.7.1944; «Ленінец» | Сакратар І. І. Ясіновіч; члены: М. С. Стрыга, П. І. Смольнік (да 23.8.1943), З. І. Нянахаў, М. П. Плюйко (абодва з 5.5.1943), П. М. Кульгавы (з кастр. 1943). |
| Пухавіцкі 22.8.1942—2.7.1944; «Партизан Белоруссии» | Сакратары: В. Я. Шклярык (да 6.5.1943), І. С. Сняжко (11.6.1943—30.1.1944), Д. М. Капуцкі (з 11.2.1944); члены: Я. Ф. Філіпскіх (з 21.10.1942), І. А. Марцынюк (21.10.1942—14.4.1943), І. В. Жохаў (14.4 — вер. 1943), С. Дз. Лі (з 11.2.1944), У. А. Ляўдanскі (з 28.3.1944), Г. Н. Раманаў (з 20.4.1944). |
| Рудзенскі ліп. 1941 — сак. 1942 | Сакратар М. П. Пакроўскі; член А. П. Пятрова. |
| кастр. 1942 — ліп. 1944; «В бой за Родину», з мая 1943 «Бальшавіцкі сцяг» | Сакратары: Пакроўскі (да 18.6.1943), Ф. В. Глебаў («Фурманаў», да 28.5.1943), І. П. Ціхончык (з 2.7.1943); члены: Ціхончык, А. М. Міхайлаў (да ліп. 1943), Р. П. Марозаў, М. В. Шкутко (абодва з 20.7.1943), В. П. Бязуглаў, П. П. Ванкевіч (абодва з 25.11.1943). |
| Слуцкі 29.3.1943—30.6.1944; «Народны мсцівец» | Сакратар І. С. Канановіч; члены: А. В. Львоў (да 26.8.1943), А. І. Сцяпанава (да кастр. 1943), С. І. Кавалёў (14.4—15.6.1943), С. І. Гурыновіч (з 20.4.1943), С. Ф. Караневіч (17.8—31.12.1943), У. А. Варатнікоў (з 31.12.1943), М. Е. Дастанка (з 23.4.1944). |
| Смалявіцкі 13.10.1942—2.7.1944; «Смерть фашизму» | Сакратар Р. Дз. Даўгалёнак; члены: П. І. Санковіч (нам. сакратара), І. М. Яськевіч (абодва да 8.2.1944, загінулі), І. П. Дзядзюля, І. М. Лойка (абодва з 11.3.1944). |
| Сталінскі г. Мінска май — вер. 1942 | Сакратар Н. Я. Герасіменка. |
| Старадарожскі 21.3.1943—28.6.1944: «За Советскую Родину» (№ 1 «Красный партизан») | Сакратары: М. А. Траскупоў (да крас. 1944), К. М. Клюйко (з крас. 1944); члены: П. Ц. Петрушэня, Р. І. Ручан, А. І. Шуба, Г. М. Машкоў (да вер. 1943). |
| Старобінскі 12.3.1943—1.7.1944; «Советский патриот» | Сакратар В. Ц. Меркуль; члены: А. Л. Другаль, І. М. Мурашка, Ф. С. Бародзіч (з чэрв. 1943). |
| Тэльманаўскі г. Мінска (у яўрэйскім гета) май — вер. 1942 | Сакратар М. Л. Гебелеў. |
| Уздзенскі 7.4.1943—2.7.1944; «За Савецкую Радзіму» | Сакратар М. С. Сцяпанаў; члены: І. А. Абрамчык, А. С. Зюба. |
| Халопеніцкі 20.10.1942—28.6.1944; «Красное знамя» | Сакратар М. А. Пасекаў; члены: М. К. Купчэня, П. Л. Цехановіч, Р. У. Шкрэда (з студз. 1944). |
| Чыгуначны г. Мінска май — вер. 1942 | Сакратар І. І. Матусевіч. |
| Чырвонаслабодскі ліп.— вер. 1941 | Сакратары: М. І. Жукоўскі, М. М. Ермалаеў. |
| 7.4.1943—1.7.1944; «Чырвоная зара» (№ 1 «Калгаснік Чырвонаслабодчыны») | Сакратар М. Р. Кастрыцкі; члены: П. В. Качкоў, С. В. Нагібін (да 17.5.1943), П. Ф. Бандарчык (з 17.5.1943), П. Я. Бабкін (з 29.4.1944), С. М. Юшко (з 28.5.1944). |
| Чэрвеньскі кастр. 1942—3.7.1944; «Червенский партизан» | Сакратары: К. К. Краўчанка (1-ы сакратар), С. Е. Данільчык (2-і сакратар з 22.3.1944); члены: П. І. Іваненка (7.12.1942—15.9.1943), Г. Н. Раманаў (7.12.1942—28.3. 1943), Ф. Р. Кошаль (з 28.3.1943), А. М. Базылевіч (з 25.8.1943). |

ПАЛЕСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

[*Працавала 17 падпольных РК КП(б)Б*]

| 1 | 2 |
|---|---|
| Акцябрскі 31.3.1943—26.6.1944; «Народны мсцівец» | Сакратары: С. В. Маханько (да ліст. 1943), Я. А. Татараў (з 15.11.1943); члены: Ф. М. Камоцкі, У. Г. Козыр (абодва да 15.11.1943), У. С. Лесюкоў, С. І. Бацішчаў (да 15.11.1943), М. К. Грыб (з 15.11.1943), Ф. І. Паўлоўскі (15.11.1943 — май 1944). |
| Брагінскі 11.10—24.11.1943 | Сакратар П. Р. Зіновіч; члены: І. Н. Мельнікаў, А. Я. Міхневіч. |

буйное наступленне ням.-фаш. войск (гл. *«Генрых»*), абарончыя баі партызан супраць намнога большых сіл праціўніка працягваліся да 9.11. 1943. Ворагу ўдалося пацясніць партызан і захапіць Расоны, Клясціцы, Межава, рассячы зону з Пн на Пд, стварыць т. зв. расонскі «кацёл». Наступальныя дзеянні войск 1-га Прыбалт. фронту на некаторы час прыпынілі развіццё карнай аперацыі. Аднак 20.12.1943 гітлераўцы падцягнулі з фронту новыя сілы і пачалі баявыя дзеянні супраць партызан у Асвейскім і Дрысенскім р-нах, а таксама ў паўд. ч. Себежскага р-на Пскоўскай вобл. (гл. *«Ота»*). Праціўнік імкнуўся прыцісн уць партызан да р. Нішча, да якой адсунулася перадавая лінія абароны гітлераўскіх войск на савецка-германскім фронце, і з дапамогай франтавых часцей знішчыць партыз. сілы і тысячы адступаючых разам з імі мірных жыхароў. Партыз. абарона з сістэмай стралк. ячэек, дзотаў і хадоў зносін праходзіла па правым беразе Нішчы да яе ўпадзення ў р. Дрыса, па Дрысе да шляху на Асвею і далей на Пн па р. Свольна. Гітлераўцы вялі наступленне шырокім фронтам у тры эшалоны, значна пераўзыходзілі партызан у сілах. У снеж. партызанам удалося прарваць кальцо блакады і 30.12.1943 выйсці ў расцалажэнне часцей Чырв. Арміі. Пад аховай партызан у раён воз. Страдань выйшла каля 10 тыс. жанчын і дзяцей. Абаронцам зоны дапамогу аказвала Вял. зямля. 8.3.1943 на аэрадром у Сяляўшчыну было дастаўлена 220 950 вінтовачных і 66 528 аўтаматных патронаў, 240 гранат, 200 мін, 6 ручных кулямётаў, 10 ПТР і 1760 патронаў да іх, 112 кг солі, мед. камплекты. У ноч на 10.3.1943 на Сяляўшчынскі партыз. аэрадром быў скінуты груз з самалётаў. З планёра даставілі партызанам 78 300 патронаў, 200 вінтовак, 200 кг толу, больш за 700 гранат. У ноч на 11 сак. 2 самалёты даставілі абаронцам зоны аўтаматы, кулямёты, процітанк. ружжы і боепрыпасы да іх. У ліст. 1943 аэрадром у Сяляўшчыне зноў прыняў самалёты са зброяй, боепрыпасамі, харчаваннем. Зваротнымі рэйсамі самалёты адвозілі параненых і дзяцей.

Стойкай абаронай зоны партызаны Беларусі ў баявой садружнасці з партызанамі Калінінскай вобл. і Латвіі вызвалілі дзесяткі тысяч жыхароў, нанеслі цяжкія страты захопнікам, пастаянна ўносілі дэзарганізацыю ў забеспячэнне левага фланга ням. групы армій «Цэнтр», шкаджалі вывозіць да чыгункі хлеб, мяса, разоў пераўзыходзячыя іх па колькасці сілы ням.-фаш. войск. У выніку наступлення сав. войск значная ч. зоны аказалася ў прыфрантавой палосе, і з студз. 1944 дзеянні партызан на яе тэр. насілі ў асн. разведвальна-дыверсійны характар. У памяць пра баявыя дзеянні партыз. фарміраванняў, якія абаранялі зону ад гітлераўцаў, насыпаны курганы (1959, каля в. Прошкі Верхнядзвінскага р-на; 1964, в. Маторына

| 1 | 2 |
|---|---|
| Васілевіцкі ліп.— 17.11.1943; «Сацыялістычная праца» | Сакратар П. П. Гудаў; члены: П. П. Алісейка, С. А. Смерцін, А. Я. Салук, І. Р. Якавенка (усе чацвёра з 4.8.1943). |
| Глускі 4.8.1943—28.6.1944; «Сацыялістычная вёска» | Сакратары: А. Я. Жулега (да 8.11.1943), Дз. Н. Удалой (15.11.1943 — сак. 1944), П. Р. Чарнушын (з сак. 1944); члены: І. Р. Гаўрон (да 17.5.1944), У. А. Станкевіч (да 14.12.1943 і з 17.5.1944), У. М. Шваякоў (да 15.11.1943), Чарнушын, І. М. Кулікоўскі (з 15.11.1943), Р. І. Ціслюкоў (19.12.1943—17.5.1944), А. Р. Касцюкевіч, А. І. Рудэнка (абодва з 17.5.1944) |
| Даманавіцкі крас.— 18.11.1943; «Голас партызана» | Сакратары: М. Я. Казлоў (да ліп. 1943), С. І. Уладыкоўскі (з ліп. 1943); члены: Казлоў, А. А. Скуранок, Ф. М. Шыкін (абодва з ліп. 1943), Уладыкоўскі, М. А. Чарнавусаў. |
| Ельскі 23.8.1941—11.1.1944; «Кліч Радзімы» | Сакратары: З. Я. Чарнаглаз (да 4.8.1943), І. А. Козінцаў (да 16.7.1942, загінуў), Я. А. Татараў (4.8—8.10.1943), І. П. Пастухоў (з 8.10.1943); члены: А. П. Шыла, М. К. Ільінкоўскі (да лют. 1943), І. А. Кравец (з крас. 1943), Чарнаглаз, І. С. Дзячэнка (4.8—13.9.1943). |
| Жыткавіцкі 10.8.1943—6.7.1944 | Сакратар І. К. Талкачоў; члены: У. М. Дзербан, І. А. Рагалевіч. |
| Калінкавіцкі 19.4—28.11.1943; «Партызан» | Сакратар В. А. Караткевіч; члены: І. У. Караткевіч, С. П. Ракіцкі. |
| Камарынскі 6.9—22.9.1943 | Сакратар І. А. Шэйн; члены: С. М. Міхедзенка, С. І. Філіпенка. |
| Капаткевіцкі крас. 1943—29.6.1944; «Бальшавік» | Сакратар А. Ц. Міхайлоўскі, члены: Ф. Дз. Кудравец, С. Р. Горбач, А. А. Жыгар (да сак. 1944), А. І. Цалко (4.8.1943—лют. 1944), А. Р Цагельнік, Р. Л. Тарасевіч (абодва з 19.6.1944). |
| Лельчыцкі 24.3.1943—15.1.1944; «По сталинскому пути» | Сакратар Р. Л. Лін; члены: К. М. Астаповіч, К. М. Дамброўскі, С. Л. Лін, С. Дз. Шур (усе чацвёра з 4.8.1943). |
| Мазырскі 25.4.1943—8.1.1944; «За Радзіму» | Сакратар М. К. Ільінкоўскі; члены: А. Л. Жыльскі, П. М. Лузан. |
| Нараўлянскі 8.10—28.11.1943 | Сакратар Л. А. Бенза; члены: М. А. Козінцаў, Л. Я. Макаранка, А. А. Садоўскі (усе трое з 17.10.1943). |
| Парыцкі крас.— 18.11.1943 | Сакратар К. А. Дудко; члены: М. М. Какоўка, Р. С. Ланцоў. |
| Петрыкаўскі 18.8—21.10.1941 | Сакратары: Х. І. Варгаўцік (да 19.10.1941, загінуў), І. К. Талкачоў; член А. П. Жукаў. |
| крас. 1943—6.7.1944; «Сталінская праўда» | Сакратар І. В. Скалабан (да крас. 1944, загінуў); члены: І. Н. Глушко, І. М. Курбатоўскі, М. А. Волкаў, А. І. Шабалтас. |
| Тураўскі 8.10.1943—31.1.1944; «Ленинские заветы» | Сакратар П. І. Тарасюк; члены: М. І. Засінец, К. Н. Мінковіч, В. І. Прасолаў. |
| Хойніцкі 25.8.1941 — ліст. 1942 | Сакратары: П. П. Домнікаў (загінуў), Н. А. Бельскі, Г. Г. Мельнікаў; члены: М. Н. Канавалаў (загінуў), В. К. Шатун. |
| 10.8—25.11.1943 | Сакратар Ф. Р. Рудчанка; члены: В. Г. Карась, К. Т. Са- |

ПІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

*[Працавала 11 падпольных РК КП(б)Б]*

| 1 | 2 |
|---|---|
| Ганцавіцкі канец 1942—7.7.1944 | Сакратары: М. М. Бандарэнка (да 17.2.1943, загінуў), М. С. Бяляй (з 16.7.1943); члены: С. С. Жарыкаў, П. Р. Кавалёў (абодва да 16.7.1943), Я. П. Узянюк, М. І. Яцына (абодва з 16.7.1943), Р. С. Сарока (з 17.10.1943). |
| Давыд-Гарадоцкі ліп.— 13.9.1941 | Сакратар М. А. Скарабагацька; член М. К. Даўгулевіч. |
| 16.7.1943—12.2.1944 | Сакратар Х. І. Севасцьянчык; члены: І. А. Сматроў, П. П. Тамілаў, М. М. Барсукоў (з 5.10.1943). |
| Драгічынскі 26.6.1943—30.3.1944; «Красная заря» | Сакратар І. Я. Жаўноў; члены: Я. П. Нецвятаеў, Я. К. Хурбатаў (абодва з 25.8.1943). |



Верхнядзвінскага р-на), настаўлены помнікі і мемар. знакі.

*У. С. Пасэ, Э. Ф. Языковіч.*

**РАСО́НСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з жн. 1941 да вер. 1942, у 1941 пад кіраўніцтвам Расонскіх падп. райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ. Арганізатар і кіраўнік настаўнік Расонскай сярэдняй школы П. М. *Машэраў*. Аб'ядноўвала 38 патрыётаў, у т. л. 20 камуністаў. Узначальваў арг-цыю к-т, у які ўваходзілі Машэраў, Е. Л. і С. Б. Пятроўскія, П. А. Галанава (Машэрава), А. С. і С. І. Язутавы, М. П. Шаркова, М. М. Міхайлоўская, У. А. Шаблоў, Л. А. Валковіч. Пазней да падпольшчыкаў далучыліся чырвонаармейцы, якія ўцяклі з палону. Да канца 1941 пад кіраўніцтвам к-та, які стаў штабам Расонскай арг-цыі, былі створаны і дзейнічалі падп. групы ў вёсках Альбрэхтава (кіраўнік П. А. Альшанікаў), Грачушына (У. А. Яфрэменка), Ражнова (М. М. Іваноў), Пірагі (У. А. *Хамчаноўскі*), Шалашнікі (М. Я. і П. Я. Гігелевы), Клясціцы (С. П. Пархімовіч, І. М. Малахаў, Б. Я. Руба), Мілавіды (І. М. Марачкоўскі), Ізбішча, Роўнае Поле, Сінск, Фаміно, Юхавічы і інш. Камітэт Расонскай арг-цыі падтрымліваў цесныя сувязі з Гарбачэва-Мурагоўскім, Заборскім, Мележаўскім, Сельніцкім, Сакалішчанскім парт.-камсам. падпольнымі арг-цыямі (гл. адпаведныя артыкулы), а таксама *Прошкаўскім камсамольска-маладзёжным падполлем*. На канспіратыўных кватэрах праводзіліся камсам. сходы, пасяджэнні штаба, распрацоўваліся планы, даваліся заданні кіраўнікам груп на месцах.

З дапамогай радыёпрыёмнікаў, устаноўленых на кватэрах С. Б. Пятроўскага і П. М. Юр'ян, падпольшчыкі Галанава, Шаркова, Пятроўскі прымалі зводкі Саўінфармбюро, якія потым распаўсюджвалі вусна і ў лістоўках у Расонах і ў многіх вёсках раёна. Падпольшчыкі выкрывалі лжывую фаш. прапаганду аб «маланкавай вайне», узнімалі насельніцтва на барацьбу з ворагам. Каб забяспечыць падпольшчыкаў ням. дакументамі, па рашэнню к-та некалькі чалавек уладкаваліся на работу ва ўстановы акупантаў, дзе здабывалі бланкі пашпартоў, даведак і інш. дакументаў. Пад выглядам выканання службовых абавязкаў яны ажыццяўлялі сувязь з іншымі падп. арг-цыямі, збіралі разведданыя, рыхтавалі дыверсіі. З дапамогай жыхароў мяст. Расоны была выведзена са строю электрастанцыя, узарваны мост, знішчана 1 тыс. тон нарыхтаванай акупантамі бульбы. Падпольшчыкі перашкаджалі вывозіць да чыгункі хлеб, мяса, масла і інш. прадукты, адабраныя фашыстамі ў насельніцтва.

Галоўнай сваёй задачай падпольшчыкі лічылі ўзброеную барацьбу з ворагам. Яны сталі ініцыятарамі разгортвання ў раёне масавага партыз. руху. Рыхтуючыся да партыз. вайны, усюды збіралі зброю і бос-

| 1 | 2 |
|---|---|
| Жабчыцкі<br>1.9.1943—30.3.1944 | Сакратар А. З. Пратасеня; члены: А. А. Бірукоў, А. І. Прыступа, З. І. Чванькоў. |
| Іванаўскі<br>канец 1942—30.3.1944<br>«Партизан Полесья» | Сакратар Ф. С. Кунькоў; члены: С. Ц. Бандарэнка, М. П. Забела (да 16.7.1943), І. Я. Жаўноў (лют.—26.6.1943), І. А. Антонаў (з 25.8.1943). |
| Лагішынскі<br>16.7.1943—10.7.1944 | Сакратар Ф. С. Міхалковіч; члены: С. Т. Берасцень, А. Дз. Пінчук (да 24.12.1943), У. М. Антановіч (з 24.12.1943). |
| Ленінскі<br>канец 1942—14.7.1944 | Сакратары: А. І. Дамброўскі (да 25.2.1943, загінуў), Р. М. Ігнаценка (28.3. 1943—7.4.1944), П. І. Канановіч (з 7.4.1944); члены: С. Р. Ягораў (да 16.7.1943), Ігнаценка (да 7.4.1944), У. М. Антановіч (16.7—24.12.1943), Р. С. Карасёў (з 16.7.1943), П. Р. Катовіч (з 5.10.1943), Ф. І. Шырын (з 8.1.1944). |
| Лунінецкі<br>канец 1942—8.7.1944;<br>«Авангард» | Сакратары: Ф. І. Лісовіч, Р. П. Швец (2-і сакратар з 15.10.1943); члены: Р. С. Карасёў (да крас. 1943), Швец, С. В. Федаровіч (крас.—16.7.1943), І. Л. Раманюк (з 16.7.1943). |
| Пінскі<br>1.9.1943—30.3.1944 | Сакратар І. Т. Снытко; член П. А. Верабей (з 14.10. 1943). |
| Столінскі<br>1.9.1943—16.2.1944 | Сакратар А. П. Кувыркоў; члены: Л. В. Даброціна, І. В. Часнакоў. |
| Целяханскі<br>ліп.—вер. 1941<br>16.7.1943—10.7.1944 | Сакратары: У. І. Квінта, Я. Р. Корнеў.<br>Сакратары: П. С. Канановіч (да 25.8.1943), А. А. Хацкевіч (з 25.8.1943); члены: І. Ц. Козак (з 25.8.1943), М. М. Палякоў (з 13.10.1943). |

*А. А. Кузняеў.*

**Раённыя падпольныя камітэты ЛКСМБ**

| Назва, час дзейнасці, друкаваны орган | Склад |
|---|---|
| | БАРАНАВІЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ<br>*(Працавала 25 падпольных райкомаў ЛКСМБ)* |
| Быценскі<br>24.10.1943—12.7.1944 | Сакратары: А. С. Бухман (да 14.12.1943), З. С. Дубрава (Савіна, з 14.12.1943); сакратар па прапагандзе Дз. П. Бабанаў; члены: М. Я. Канаплянік, С. І. Шчарбачэня, М. Р. Аляксандраў (з сак. 1944). |
| Васілішкаўскі<br>ліп. 1943—11.7.1944 | Сакратар П. А. Тарасаў (адначасова з 15.8.1943 узначальваў і Радунскі падп. РК ЛКСМБ Беластоцкай вобл.); члены: П. В. Жукаў (да 19.12.1943), І. Т. Сітнікаў (з вер. 1943), А. А. Маркевіч (з 1.1.1944), І. П. Філінаў (з сак. 1944), І. К. Цілюк (з крас. 1944), М. П. Конанаў (з чэрв. 1944). |
| Валожынскі<br>7.11.1943—6.7.1944 | Сакратар Ц. А. Паўлюц; сакратар па прапагандзе Н. Н. Мамнева (з 10.11.1943); члены: Б. А. Бахмутаў, Я. А. Жамодзін, Т. Я. Пачакаева. |
| Воранаўскі<br>1.12.1943—7.7.1944 | Сакратар І. Я. Мухартаў (адначасова з лютага 1944 сакратар Юрацішкаўскага падп. РК ЛКСМБ). Функцыі членаў райкома выконвалі члены Юрацішкаўскага падп. РК ЛКСМБ А. Я. Коржаль, А. П. Валабуеў, М. А. Грышчук. |
| Гарадзішчанскі<br>15.8.1943—10.7.1944 | Сакратары: І. М. Іоначкін (да 10.10.1943), Л. І. Шумская (з 10.10.1943); сакратар па прапагандзе В. Р. Мельнікава; члены: П. А. Касалапаў (да 5.10.1943, загінуў), А. С. Зубараў (5.9—24.10.1943, загінуў), М. Л. Карасёў, І. Е. Гарбачоў (абодва 10.10—30.12.1943), Г. М. Маўрын, М. І. Кабяк, П. В. Смолік (усе з 30.12.1943). |
| Дзятлаўскі<br>1.6.1943—15.7.1944 | Сакратары: Г. А. Меншыкава (Арлова, да 20.8.1943), І. М. Глазкоў (20.8.1943—1.1.1944), П. С. Аношка (1.1—25.3.1944), В. І. Кірсанаў (з 25.3.1944), сакратары па прапагандзе: Меншыкава (20.8—15.11.1943), Аношка (15.11.1943—1.1.1944), М. П. Сніціч (з 1.1.1944); члены: Глазкоў (з 20.8.1943), Аношка (з 15.11.1943), С. П. Фляг. |

прыпасы. Члены Шалашніцкай групы здабылі 2 ручныя кулямёты, 5 вінтовак, некалькі скрынак кулямётных стужак з патронамі, шмат гранат. Вялікую работу па зборы зброі і боепрыпасаў правялі члены Альбрэхтаўскай, Клясціцкай, Мілавідскай і інш. груп. Вялася нарыхтоўка адзення, абутку, харчоў для партызан і фуражу для коней. Падпольшчыкі, якія працавалі ў бальніцы, рыхтавалі для партызан медыкаменты, перавязачныя сродкі. Каб выратаваць сем'і ад рэпрэсій акупантаў, кіраўніцтва распрацавала падрабязны план уходу падпольшчыкаў да партызан. Першым пад выглядам паездкі да радні 19 крас. пайшоў у партызаны Машэраў. У гэтым жа месяцы да яго далучыліся яшчэ 18 падпольшчыкаў, якія наклалі пачатак утварэнню ў раёне партыз. атрада «Дубняка» (названы па падп. псеўданіме яго камандзіра Машэрава, з ліп. 1942 атрад імя М. А. Шчорса брыгады «За Савецкую Беларусь», гл. *Партызанская брыгада імя К. К. Ракасоўскага*). Да восені 1942 амаль усе падпольшчыкі сталі партызанамі.

У барацьбе супраць ням.-фаш. акупантаў загінулі 12 падпольшчыкаў: М. Я. і П. Я. Гігелевы, П. Я. Дзяружына, С. І. Язутаў, А. С. Язутава (Емельянава), І. М. Малахаў, Ф. І. Масальская, Д. П. Машэрава, М. М. Міхайлоўская, Е. Л. Пятроўская, Б. Я. Руба, Хамчаноўскі. Памяць аб патрыётах Расонскага парт.-камсам. падполля ўвекавечана ў г. п. Расоны ў мемар. комплексе, узведзеным у мемар. парку, што створаны на месцы пахавання сав. воінаў, партызан і падпольшчыкаў, якія загінулі ў гады вайны (гл. *Расонскі мемарыяльны комплекс*). На будынку Расонскай сярэдняй школы ў 1972 у гонар падполля ўстаноўлена мемар. дошка. У 1979 на месцы расстрэлу падпольшчыкаў створаны помнік. П. М. Машэраў і У. А. Хамчаноўскі ўдастоены звання Героя Сав. Саюза.

*Л. А. Папкоўскі.*

**РАСО́НСКІ БОЙ 1942**, бой *партызанскай брыгады Расонскай імя І. В. Сталіна* і ням.-фаш. захопнікаў у в. Расоны 19.9.1942.

У сярэдзіне 1942 партызаны перарэзалі ўсе камунікацыі, якія вялі ў Расоны, і пачалі блакаду варожага гарнізона, які налічваў больш за 300 гітлераўцаў. Да сярэдзіны вер. ўдарамі па апорных пунктах ворага ў вёсках Клясціцы, Сакалішча, Сівошына і інш. партызаны адрэзалі ад іх Расонскі гарнізон. Значную дапамогу аказалі партызанам падпольшчыкі *Расонскага партыйна-камсамольскага падполля*, якія сабралі і перадалі партыз. камандаванню звесткі пра колькасць і ўзбраенне праціўніка. Арт. абстрэлам умацаванняў Расонскага гарнізона ў ноч на 19 вер. партызаны вымусілі гітлераўцаў пакінуць Расоны. Было знішчана каля 20 акупан-

| 1 | 2 |
|---|---|
| Жалудоцкі 1.7.1943—15.7.1944 | Сакратары: П. В. Штыкаў (да 1.11. 1943), В. П. Бесарабаў (з 1.11.1943); сакратары па прапагандзе: М. Дз. Бялей (да 10.11.1943), Г. Ф. Аўчыннікаў (з 10.11.1943); члены: Дз. С. Бутоўскі (да 10.11.1943, загінуў), М. І. Ермантовіч, І. В. Ісцягін (абодва з 1.11.1943). |
| Зэльвенскі 18.12.1943—13.7.1944 | Сакратар П. В. Крохін; сакратар па прапагандзе С. Л. Рында; члены: І. В. Канюшэўскі (адначасова сакратар Мастоўскага падп. РК ЛКСМБ), М. С. Ермалаеў. |
| Івянецкі 1.11.1943—6.7.1944 | Сакратар А. С. Міхайлічэнка; сакратары па прапагандзе: П. К. Турчаненка (да 6.5.1944, загінуў), Г. І. Хацкевіч (з 11.6.1944); члены: З. А. Бойка, М. І. Пятроў (да 1.4.1944, загінуў), А. А. Шумкевіч, Б. І. Камейша (з 1.1. 1944). Б. І. Баброў, А. І. Янушонак (абодва з 31.3.1944). |
| Іўеўскі студз. 1943—6.7.1944 | Сакратары: М. А. Свірыда (да 1.1.1944), І. У. Іванчанка (1.1—13.3.1944), В. І. Нікалашына (з 13.3.1944); сакратары па прапагандзе: У. С. Вашкевіч (1.1—13.3.1944), Іванчанка (з 13.3.1944); члены: К. В. Няфёдаў, Н. А. Шпагіна (абое да 1.1.1944), М. К. Ангур, Вашкевіч (абодва з 1.1.1944), В. Ф. Калтоўскі (1.1—крас. 1944), А. В. Яромка (з 1.1.1944), А. П. Голубеў (з 6.4.1944). |
| Казлоўшчынскі чэрв. 1943—15.7.1944 | Сакратары: А. А. Ступчык (да 1.11.1943), С. П. Зімін (1.11.1943—25.1.1944), П. С. Емяльянчык (з 25.1.1944); сакратары па прапагандзе: М. А. Панін (да 25.1.1944), Зімін (з 25.1.1944); члены: П. С. Аношка (да 15.11.1943), Р. П. Казанцаў (з 28.12.1943), Ф. Г. Камароў (28.12. 1943—15.4.1944), П. М. Лявончык (з 28.12.1943). |
| Карэліцкі 14.12.1943—10.7.1944 | Сакратар С. М. Лаўрушчык; сакратар па прапагандзе М. Л. Карасёў; члены: М. І. Бурдзь, Ф. Ф. Гладкі, К. С. Мажараў. |
| Клецкі 4.10.1943—3.7.1944 | Сакратары: П. П. Брэднеў (да 1.1.1944), А. І. Салтыкоў, сакратар па прапагандзе І. М. Яўстрацікаў (абодва з 1.1.1944); члены: М. З. Неймарк, Ю. І. Зяневіч (абодва да 1.1.1944), М. М. Кіжаеў, Я. Я. Мурох, А. І. Новікаў (усе з 1.1.1944). |
| Любчанскі студз. 1943—11.7.1944 | Сакратары: В. І. Шыкаловіч (да ліп. 1943), І. А. Малуха (ліп.— 11.10.1943), М. Г. Макулік (з 11.10.1943), сакратары па прапагандзе: В. П. Фадзееў (11.10—20.11. 1943), А. І. Сямёнаў (20.11.1943—28.4.1944), М. І. Грабёнкін (з 28.4.1944); члены: М. І. Стаднік (да мая 1943, нам. сакратара райкома), Малуха (да 1.1.1944), П. П. Дзедулевіч (да ліп. 1943, загінула), А. І. Спадар (да 11.10.1943), І. С. Багдановіч, А. Я. Батура, М. А. Кавальчук, А. М. Маскалёў (усе з 11.10.1943). |
| Ляхавіцкі 26.10.1943—10.7.1944 | Сакратар А. З. Ерашоў; члены: М. Р. Жукаў, М. Р. Сініца, П. П. Брэднеў, П. І. Абрадаў (абодва з 10.3.1944). |
| Мастоўскі 17.12.1943—13.7.1944 | Сакратар І. В. Канюшэўскі. Функцыі членаў райкома выконвалі члены Зэльвенскага падп. РК ЛКСМБ М. С. Ермалаеў і С. Л. Рында. |
| Мірскі 1.10.1943—10.7.1944 | Сакратар І. М. Мацко, сакратар па прапагандзе М. У. Бусько (з 19.1.1944); члены: Бусько, М. Р. Анцух, В. А. Хілімонаў, А. К. Цабкала. |
| Навагрудскі вер. 1942—6.7.1944 | Сакратары: І. А. Капытка (да 1.7.1943, загінуў), Ю. Г. Баранаў (1.7.1943—13.3.1944), Р. Ф. Фамічоў (з 13.3.1944); сакратары па прапагандзе: М. В. Паўлаў (кастр. 1943—13.3.1944), Баранаў (з 13.3.1944); члены: С. М. Брынкевіч (нам. сакратара, да ліст. 1943), М. І. Владас (да 20.11.1943), Паўлаў (з кастр. 1943), А. І. Бусько, М. М. Рытус (абодва з 20.11.1943). |
| Навамышскі 30.12.1943—6.7.1944 | Сакратары: Б. Я. Раманаў (да 13.3.1944), Г. В. Кулага (з 13.3.1944); сакратары па прапагандзе: П. Г. Майсюк (да 13.3.1944), Раманаў (13.3—22.6.1944), І. М. Панцуркін (з 22.6.1944); члены: Майсюк, А. М. Шарстук. |
| Нясвіжскі 1.11.1943—5.7.1944 | Сакратар М. Д. Сямашка; члены: А. А. Некраш (да 4.6.1944, загінуў), А. С. Самойленка. |

таў, захоплена 2 мінамёты, 2 кулямёты, каля 75 вінтовак. З гэтага часу ў Расонах, Расонскім і суседніх з ім раёнах была адноўлена Сав. ўлада, створана *Расонска-Асвейская партызанская зона.* У 1981 у Расонах у гонар партызан, якія ў 1942 вызвалялі гар. пасёлак ад ням.-фаш. захопнікаў, пастаўлены помнік.

*М. Ф. Шумейка.*

**РАСО́НСКІ МЕМАРЫЯ́ЛЬНЫ КО́МПЛЕКС.** Пабудаваны ў 1965 (арх. В. Занковіч і Л. Левін) у мемар. парку на месцы пахавання 1993 сав. воінаў, партызан і падпольшчыкаў, якія загінулі ў барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў. Кампазіцыйны цэнтр комплексу — 5-метровы квадратны ў плане пілон з зоркай (бетон, чорны граніт), устаноўлены на светлай гарызантальнай пліце (5×5 м) на гал. алеі ў глыбіні парку. Замыкае перспектыву сцяна з 21 па чарзе выступаючай пліты (1×1,5 м) з імёнамі пахаваных. Справа ад яе 2, злева 3 кубы з мемар. дошкамі. Перад уваходам на гал. алею на невысокім пастаменце ўстаноўлены чорны гранітны куб з надпісам-прысвячэннем: «Бессмяротнай славе волатаў зямлі беларускай, воінаў Савецкай Арміі і партызанскіх брыгад імя Сталіна, імя Ракасоўскага, 3-й і 7-й Калінінскіх. Вечна жыць вам у памяці народнай!»

**РАСО́НСКІ МУЗЕ́Й БАЯВО́Й САДРУ́ЖНАСЦІ.** Філіял *Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.* Адкрыты 4.7.1981 у г. п. Расоны. Мае 13 экспазіцыйных залаў пл. 683 м², 4203 экспанаты асн. фонду. 1-я зала прысвечана Вял. Кастрычніцкай сацыяліст. рэвалюцыі, 13-я мемар. зала Героя Сав. Саюза і Героя Сацыяліст. Працы П. М. Машэрава, астатнія 11 залаў прысвечаны Вял. Айч. вайне (пл. экспазіцыі 509 м², 1246 экспанатаў). У першых залах прадстаўлены матэрыялы пра абарончыя баі 98-й і 112-й стралк. дывізій 22-й арміі на ПнЗ рэспублікі (фатаграфіі, асабістыя рэчы ўдзельнікаў абарончых баёў, у т. л. нач. штаба 22-й арміі ген.-лейт. Г. Ф. Захарава, узоры зброі пачатковага перыяду вайны), пра ўдзел землякоў у абароне Масквы, Ленінграда, Сталінграда і інш. гарадоў, у баях на Курскай дузе, дырэктыўныя дакументы ЦК кампартый Беларусі, Літвы, Латвіі і Калінінскага абкома ВКП(б) па арганізацыі барацьбы супраць ням.-фаш. захопнікаў, зводкі Саўінфармбюро. У наступных залах экспануюцца матэрыялы пра ўзнікненне і развіццё падполля і партыз. руху ў Расонска-Асвейскім краі, пра дзейнасць Віцебскага падп. абкома, Расонскага, Асвейскага, Дрысенскага падп. райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ: карта-схема размяшчэння 9 падп.

| 1 | 2 |
|---|---|
| Радунскі 15.8.1943—11.7.1944 | Сакратар П. А. Тарасаў (адначасова сакратар Васілішкаўскага падп. РК ЛКСМБ), сакратар па прапагандзе Л. М. Пісараў; член Д. Ф. Дзергачоў. |
| Слонімскі 1.12.1943—10.7.1944 | Сакратар У. С. Міхнян; сакратар па прапагандзе М. М. Анішчык; член П. Н. Дабрыян. |
| Стаўбцоўскі 20.10.1943—5.7.1944 | Сакратары: А. У. Мамантаў (да 18.5.1944, загінуў), Ф. Ф. Шамшын (з 1.6.1944); сакратары па прапагандзе: А. В. Новікаў (да 15.1.1944), П. В. Кірылаў (з 15.1.1944); члены: Н. С. Губінская, Ю. Л. Бурдзейка, Новікаў (з 15.1.1944). |
| Шчучынскі 10.11.1943—15.7.1944 | Сакратар Ф. В. Зямскоў; сакратар па прапагандзе М. Дз. Бялей (да 11.6.1944, загінуў); член Дз. С. Южакоў (да 11.6.1944, загінуў). |
| Юрацішкаўскі снеж. 1942—7.7.1944 | Сакратары: Л. К. Хітро (да 3.9.1943), А. К. Побаль (3.9—13.11.1943, 12.1942—3.9.1943, нам. сакратара райкома), М. І. Меліяранскі (з 13.11.1943), І. Я. Мухартаў (з 7.2.1944, адначасова сакратар Воранаўскага падп. РК ЛКСМБ); сакратары па прапагандзе: В. І. Нікалашына (7.2—13.3.1944), А. Я. Коржаль (з 16.4.1944); члены: Побаль (да 13.11.1943), Коржаль (з 20.11.1943), В. Спірыдонава (да 30.12.1943), А. М. Бараненкава (да 30.12.1943), А. П. Валабуеў (з 20.11.1943), М. А. Грышчук (з 1.1. 1944), А. П. Папоў (з 1.4. 1944), А. С. Скупая (з 1.1. 1944). |

БЕЛАСТОЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ

*(Працаваў 21 падпольны райком ЛКСМБ)*

| 1 | 2 |
|---|---|
| Аўгустоўскі 10.9.1943—1.8.1944 | Сакратар І. В. Кавалеўскі, сакратар па прапагандзе А. С. Губкін (з 1.5.1944); члены: Губкін, Я. В. Стралец (да снеж. 1943), Р. В. Чугунаў. |
| Беластоцкі 20.4—1.8.1944 | Сакратар П. В. Зязюля; сакратар па прапагандзе Г. І. Селіванаў; член В. І. Грэсь. |
| Бельскі 28.11.1943—1.8.1944 | Сакратар С. П. Францкевіч; члены: П. Л. Апанасевіч, У. І. Вайтуль, У. І. Сцяпура, У. П. Трыгубаў, М. А. Якімовіч. |
| Браньскі 27.8.1943—1.8.1944 | Сакратары: І. К. Клімчэня (да ліст. 1943, загінуў), В. І. Міхальчанка, І. А. Чалы (15.12.1943—3.3.1944, адначасова сакратар Замброўскага падп. райкома ЛКСМБ); члены: Чалы (1.11—15.12.1943), Я. П. Клімчэня, А. З. Каламіец, В. М. Мазаляка (усе з 23.1.1944). |
| Ваўкавыскі 28.11.1943—16.7.1944 | Сакратары: Г. С. Фёдараў (да 15.5.1944), В. А. Чыстова (з 15.5.1944, адначасова сакратар Беластоцкага падп. абкома ЛКСМБ); сакратар па прапагандзе В. І. Сарока; члены: В. С. Жданеня, А. С. Міцкевіч (да 1.3.1944), С. Я. Быстрык, М. А. Ганаровіч (абодва з 28.2.1944), М. А. Гарачаў, Э. К. Валадзько (абодва з 15.4.1944). |
| Граеўскі 12.12.1943—1.8.1944 | Сакратар А. А. Чваннікаў; член М. П. Катахіевіч. У рабоце па арганізацыі і кіраўніцтву камсам.-маладзёжным падполлем у Граеўскім р-не ўдзельнічалі таксама члены Крынкаўскага падп. РК ЛКСМБ. |
| Гродзенскі 1.11.1943—26.7.1944 | Сакратары: А. В. Цыплакова (да 19.12.1943), Ц. П. Папаламаў (з 19.12.1943); сакратар па прапагандзе В. А. Корбут; члены: А. М. Хілько, В. З. Ажарэдаў, У. Я. Сіпач (усе з 15.12.1943), І. Г. Гайдук (з 19.4.1944). |
| Дамброўскі 1.12.1943—20.7.1944 | Сакратар М. Я. Міхалёў; члены: У. Р. Пінчанскі, Б. Ц. Курылін. |
| Заблудаўскі 1.11.1943—15.7.1944 | Сакратар Я. І. Баркуноў, сакратар па прапагандзе А. С. Міцкевіч (з 1.3.1944); члены: М. А. Гарачаў (да 14.4.1944), Б. С. Пархімовіч, І. С. Федасееў, С. У. Бокун, І. К. Грыгор'еў, В. А. Сіпач (усе з 15.2.1944). |
| Замброўскі 16.12.1943—1.8.1944 | Сакратар І. А. Чалы (адначасова сакратар Браньскага падп. РК ЛКСМБ); члены: П. Ф. Несцераў, Ю. Дз. Дзергачоў, С. Е. Паляжаеў. |
| Кнышынскі 25.5—1.8.1944 | Сакратар П. П. Грышкін; член К. С. Калінічэнка. У рабоце райкома прымалі ўдзел члены Дамброўскага падп. РК ЛКСМБ. |

парт.-камсам. груп, радыёпрыёмнік Расонскай падп. групы, фатаграфіі кіраўнікоў і членаў падп. груп, у т. л. Герояў Сав. Саюза Машэрава і У. А. *Хамчаноўскага*; тэкст прысягі бел. партызан, карта-схема дыслакацыі партыз. атрадаў у 1941—42, матэрыялы аб сумеснай аперацыі бел. і латышскіх партызан у мяст. Шкяуне Латвійскай ССР 12.6.1942. Прадстаўлены матэрыялы пра арганізацыю і баявыя дзеянні партыз. брыгад на Пн Віцебскай вобл., пра стварэнне *Расонска-Асвейскай партызанскай зоны*, Беніслаўскую аперацыю па падрыву чыг. моста, аперацыю па вызваленню г. п. Расоны 19.9.1942, пра развіццё партыз. руху на тэр. Літвы, Латвіі, Калінінскай вобл., сумесныя дзеянні партызан па адбіцці карных аперацый у студз.— сак. 1943, удзел партызан у «рэйкавай вайне» і інш. аперацыі на камунікацыях ворага, у вызваленні Беларусі, Літвы, Латвіі, Калінінскай вобл. ад гітлераўцаў: партыз. лістоўкі на літоўскай і латышскай мовах, фатаграфіі камандзіра Латышскай партыз. брыгады Героя Сав. Саюза



**У адной з залаў Расонскага музея баявой садружнасці.**

В. Самсона, кіраўнікоў партыз. барацьбы ў Літве М. Шумаўскаса і Г. Зіманаса і інш., матэрыялы пра *Вецслабадскі бой 1943* па разгроме гітлераўскага гарнізона на тэр. Латвіі. Асобныя залы прысвечаны злачынствам ням.-фаш. акупантаў у партыз. краі (фатаграфіі і дакументы аб расправах ням.-фаш. захопнікаў над падпольшчыкамі і цывільным насельніцтвам, лістоўка «Асвейская трагедыя» аб знішчэнні ў Асвейскім р-не 3639 мясцовых жыхароў і інш.), жыццю і побыту насельніцтва і партызан «Брацкага партызанскага краю»: макет партыз. зямлянкі з прадметамі побыту, партыз. рацыя, друкарскі станок, сталярныя інструменты, гармонік, зброя, асабістыя рэчы, дакументы, фатаграфіі партызан, сцягі партыз. атрадаў. Расказваецца пра вызваленне

| 1 | 2 |
|---|---|
| Крынкаўскі 5.4—1.8.1944 | Сакратар М. В. Шышкін; сакратар па прапагандзе Ф. Г. Ярастаў; члены: А. А. Паўлаў, М. П. Юдзін, І. А. Гайко, М. В. Пранкевіч, П. С. Траццякова (усе з 9.4.1944). |
| Лапскі 1.8.1943—1.8.1944 | Сакратар М. А. Сетава; члены І. К. Рычык, І. І. Пешкур, І. Ф. Шульга (з 12.1.1944), Дз. І. Перавозка (з 28.1.1944). |
| Ломжынскі 1.12.1943—1.8.1944 | Сакратар Я. У. Нартыш-Блук; сакратар па прапагандзе В. П. Сахараў (да 12.1.1944); члены: А. Дз. Бода, А. І. Маркін, П. Ф. Несцераў (з 5.6.1944). |
| Саколкаўскі 12.1—24.7.1944 | Сакратары: В. П. Сахараў (да 12.3.1944), А. В. Цыплакова (з 12.3.1944), сакратар па прапагандзе Сахараў (з 12.3.1944); члены: А. А. Агейчык, Н. А. Санько. |
| Сапоцкінскі 1.12.1943—13.7.1944 | Сакратар Д. Ф. Іваноў; сакратар па прапагандзе С. Ф. Гірс (да 25.1.1944, загінуў); члены: А. І. Міхно, У. Я. Сіпач (з 15.2.1944). У рабоце райкома прымалі ўдзел члены Аўгустоўскага падп. РК ЛКСМБ. |
| Свіслацкі 5.11.1943—13.7.1944 | Сакратар І. П. Сарока; сакратар па прапагандзе А. І. Чарнышова (да 1.3.1944); члены: М. А. Сіпач, М. А. Шопік (да сак. 1944, загінуў), І. К. Грыгор'еў (з 25.5.1944), З. А. Рэчкін, П. Л. Парцянкін (абодва з 3.3.1944), А. К. Ляпёшкін, В. А. Моўчан (абодва з 25.5.1944), Шопік. |
| Скідзельскі 1.9.1943—26.7.1944 | Сакратары: К. І. Чычкова (да 11.5.1944, загінула), М. Е. Каленчанка (з 11.5.1944), сакратары па прапагандзе: Каленчанка (12.2—11.5.1944), С. Л. Мігурскі (да 1.11.1943), А. А. Ламака (з 11.5.1944); члены: В. А. Кушчоў (да 12.1.1944), Каленчанка (з 1.1.1944), В. С. Нікіцін (з 1.2.1944), Н. Ц. Кемяжук (Патапава), П. Кобрынец (абое з 11.5.1944). |
| Снядоўскі 1.12.1943—14.8.1944 | Сакратары: К. П. Давідчык (да 25.5.1944), Л. А. Казлоўскі (з 25.5.1944), сакратар па прапагандзе Давідчык (з 25.5.1944); члены: Казлоўскі, М. А. Гардзіенка (з 1.1.1944). |
| Цэханавіцкі 22.12.1943—1.8.1944 | Сакратары: А. Т. Семянюта (да 12.1.1944), М. М. Даменя (12.1—5.6.1944), А. А. Апрышчанка (з 5.6.1944); сакратар па прапагандзе Апрышчанка (да 5.6.1944); члены: І. П. Дзмітрыеў, У. Л. Жаваранкаў. |
| Чыжэўскі 10.12.1943—13.7.1944 | Сакратар І. Дз. Ігнатаў; сакратар па прапагандзе В. Р. Самсонаў (з 16.3.1944); члены: М. М. Даменя (да 12.1.1944), А. М. Яскевіч. |
| **БРЭСЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ** *(Працавала 18 падпольных райкомаў ЛКСМБ)* | |
| Антопальскі вер. 1943—12.7.1944 | Сакратары: К. М. Міранюк (да 1.1.1944), С. В. Кероў (з 1.1.1944); сакратар па прапагандзе Міранюк (з 1.1.1944); члены: З. З. Дзенісюк (да крас. 1944), І. К. Каралёў (да сак. 1944), І. К. Вышынскі, В. С. Ламака, Ц. П. Філімановіч (усе з 9.5.1944). |
| Брэсцкі 1.8.1943—21.7.1944 | Сакратары: Ф. Я. Тронкіна (адначасова ў маі — ліп. 1944 член Брэсцкага гаркома ЛКСМБ), С. С. Шыканаў (з 1.1.1944); члены: М. А. Шапавалаў, А. Л. Мельнік, М. В. Мартыненка, І. А. Букач (з 19.2. 1944). |
| Бярозаўскі 1.9.1943—12.7.1944 | Сакратар П. К. Каламійцаў; сакратары па прапагандзе: Ф. І. Савін (да 22.11.1943), С. А. Мядзведзь (Мядзведзеў, з 22.11.1943); члены: Мядзведзь, С. П. Руціч, Л. М. Каган (да 19.6.1944, загінуў), В. М. Завадзіч, М. С. Вайцяшэня, І. К. Слабко (усе з 1.1.1944). |
| Высакоўскі снеж. 1943—10.7.1944 | Сакратары: В. П. Маслаў, У. П. Карабко; члены: У. Ц. Арсянюк, М. Н. Плаўх. |
| Гайнаўскі снеж. 1943—10.7.1944 | Сакратары: А. А. Плаўчанка (да 5.1.1944), Ф. Ц. Малеў; сакратар па прапагандзе В. Ф. Логінаў. |
| Дамачоўскі 9.11.1943—20.7.1944 | Сакратар С. М. Асавец; сакратар па прапагандзе А. П. Кастроў; члены: Я. Я. Гагалюк, П. І. Навумчык. |
| Дзівінскі 5.6.1943—21.7.1944 | Сакратар В. І. Піваварaў; сакратар па прапагандзе |

паўн.-зах. часткі Беларусі, Літвы, Латвіі і Калінінскай вобл. ад фаш. захопнікаў воінамі 119-й, 219, 319-й стралк. дывізій і 101-й стралк. брыгады, удзеле землякоў у вызваленні краін Еўропы. У музеі экспануюцца карціна «Першы сход камуністаў Расонскага раёна» (мастак — б. партызан брыгады імя Сталіна, засл. мастак Абхазскай АССР і Грузінскай ССР Ч. Кукуладзе), макет «Брацкага партызанскага краю», агучаная карта «Барацьба партызан Брацкага краю супраць карнікаў у студзені — сакавіку 1943 г.» і інш. Завяршае экспазіцыю зала Памяці народнай, дзе прадстаўлены дыяпазітывы найбольш значных помнікаў Вял. Айч. вайны на тэр. Беларусі, Латвіі, Літвы, Калінінскай вобл., у цэнтры — макет кургана Дружбы каля в. Прошкі Верхнядзвінскага р-на. У зале праводзяцца сустрэчы моладзі з ветэранамі вайны, урачыстыя піянерскія лінейкі, уручаюцца камсам. білеты і інш.

*А. І. Герасімаў.*

**РАСО́НЫ**, гарадскі пасёлак, цэнтр Расонскага р-на, на паўн. беразе воз. Расона. За 159 км на ПнЗ ад Віцебска, за 45 км ад чыг. ст. Дрэтунь (на лініі Полацк — Невель), аўтадарогамі злучаны з Верхнядзвінскам, Невелем, Полацкам. Да 1958 вёска. У пач. 1941 паводле рашэння бюро Расонскага РК КП(б)Б быў зацверджаны склад падп. райкома, для работы ў варожым тыле створаны падп. групы. На тэр. раёна быў сфарміраваны Расонскі знішчальны батальён і атрад нар. апалчэння, жыхары дапамагалі сав. воінам у будаўніцтве абарончых рубяжоў. 15.7.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў Р. і раёне 3750 чал. Дзейнічалі *Расонскае партыйна-камсамольскае падполле*, Расонскія падп. райкомы КП(б)Б (16.7. 1941 — снеж. 1941; 29.5.1942—3.11. 1943) і ЛКСМБ (17.7.1941 — вер. 1941; 7.6.1942—3.11.1943), партыз. брыгады Расонская імя Сталіна, «За Савецкую Беларусь» (пазней імя Ракасоўскага), Асвейская імя Фрунзе, 3-я і 4-я Беларускія, 1-я і 2-я Дрысенскія, імя Кароткіна, імя Леніна, 3-я і 7-я Калінінскія, асобныя атрады «Баявы», «Трэція», імя Чкалава (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«Сацыялістычная праца»*. У маі 1942 партызаны разграмілі паліцэйскія ўчасткі і валасныя ўправы на тэр. 10 сельсаветаў раёна, 19.9.1942 — варожы гарнізон у Р. (гл. *Расонскі бой 1942*), якія сталі цэнтрам *Расонска-Асвейскай партызанскай зоны.* Гітлераўцы неаднаразова спрабавалі ліквідаваць зону, баі па яе абароне ішлі беcперапынна з чэрв. 1942, у ліст. 1943 праціўніку ўдалося захапіць Р. Вызвалены 12.7.1944 воінамі 219-й Ідрыц-

| 1 | 2 |
|---|---|
| | В. І. Удовін; члены: В. П. Церабаў, Я. М. Ляўчук, В. Ц. Вайткоўскі (абодва з 1.11.1943), Т. П. Сукач (Плавінская), А. В. Харытанюк (абое з 1.2.1944), А. А. Грабайла (з 1.4.1944). |
| Жабінкаўскі 1.11.1943—20.7.1944 | Сакратар В. А. Зубцоў; сакратар па прапагандзе А. Р. Рамановіч (з 19.2.1944); члены: Рамановіч, М. П. Святлоў (да 6.4.1944, загінуў), М. П. Краўчук (да 24.4.1944), І. С. Казлоў (10.1—24.4.1944), Р. А. Астапук (з 1.1.1944). |
| Камянецкі 4.3—12.7.1944 | Сакратар П. Ф. Мартысюк; сакратары па прапагандзе: А. Ц. Грабко (да 1.5.1944), І. Л. Пятровіч (з 1.5.1944, адначасова сакратар Сямяціцкага РК ЛКСМБ); члены М. А. Цодаў, М. П. Стрыкаў (абодва з 1.5.1944). |
| Кляшчэльскі 9.5—11.7.1944 | Сакратар Р. І. Архіпаў; члены А. Ц. Грабко, Т. С. Аляб'ева, А. П. Дзедышаў, В. П. Маслаў. |
| Кобрынскі 1.9.1943—19.7.1944 | Сакратары: Б. Я. Сцяпанаў (да 1.1.1944), Ф. М. Алісіевіч (з 1.1.1944); сакратары па прапагандзе: Алісіевіч (да 1.1.1944), Сцяпанаў (з 1.1.1944); члены: Я. Г. Болдыраў, М. С. Усікаў, М. Ф. Якунін, С. П. Дзенісюк (абодва з 9.5.1944). |
| Косаўскі 1.9—12.7.1944 | Сакратары: С. М. Дурэйка (да 22.11.1943), М. І. Сіняўскі (22.11.1943—15.1.1944), М. П. Чарных (з 15.1.1944); сакратары па прапагандзе: Сіняўскі (да 22.11.1943), Ф. І. Савін (23.11.1943—1.1.1944); члены: К. П. Гардзейчык (да 1.11.1943, загінуў), І. Р. Каспіровіч. |
| Маларыцкі 22.11.1943—20.7.1944 | Сакратары: Ф. Я. Маруда (да 6.7.1944, загінуў), М. І. Лебедзеў (з 6.7.1944); сакратар па прапагандзе А. А. Радзёнава; члены: А. М. Дубовік, Лебедзеў, С. Б. Сезік (абодва з 1.1.1944). |
| Поразаўскі 1.9.1943—15.7.1944 | Сакратары: А. Ф. Шымановіч (да 12.3.1944, загінуў), І. Я. Аксёнаў; члены: А. С. Шабат (з 15.10.1943), С. І. Янушка, І. М. Брыль (абодва з 9.5.1944). |
| Пружанскі 1.9.1943—11.7.1944 | Сакратары: М. А. Смятанін (Смятана), М. Дз. Сямёнаў; члены: Ф. С. Масяйчук, І. Я. Каляда, А. С. Карпыза, М. У. Юркевіч, М. І. Жук (усе, акрамя Масейчука, з 9.5.1944). |
| Ружанскі 1.8.1943—15.7.1944 | Сакратар Я. І. Гардзей; сакратар па прапагандзе С. М. Дурэйка (з 22.11.1943); члены: М. І. Асташэня, І. М. Дурэйка, С. А. Акуневіч (з 15.1.1944). |
| Сямяціцкі 1.1—11.7.1944 | Сакратар І. Л. Пятровіч (адначасова сакратар па прапагандзе Камянецкага падп. РК ЛКСМБ); члены: М. А. Цодаў, В. В. Волкаў. |
| Шарашэўскі 1.9.1943—13.7.1944 | Сакратары: П. Г. Рагачэўскі (да 1.1.1944), Я. А. Багатаў (з 1.1.1944); сакратар па прапагандзе Багатаў (да 1.1.1944); члены: С. І. Ясечка, К. Давыдзюк (з 28.5.1944). |
| | ВІЛЕЙСКАЯ ВОБЛАСЦЬ *(Працавала 20 падпольных райкомаў ЛКСМБ)* |
| Астравецкі 6.5—6.7.1944 | Сакратар В. М. Пелюхаў; сакратары па прапагандзе: А. Дз. Тычына (да 15.6.1944), М. Н. Полазаў (з 15.6.1944); члены: Полазаў, Тычына, А. Е. Геніховіч, Ф. І. Ярмош, В. Ф. Радчанка. |
| Ашмянскі 5.9.1943—8.7.1944 | Сакратары: Дз. С. Юракаў (да 9.11.1943), В. Дз. Сюксін (з 9.11.1943), сакратары па прапагандзе: Сюксін (да 9.11.1943), П. Е. Буртыс (з 9.11.1943); члены: У. М. Кароткі, В. М. Радзёнаў, У. В. Спірын (да 4.1.1944), Я. Л. Юдзін (з 2.11.1943). |
| Браслаўскі 14.9.1943—2.7.1944 | Сакратары: В. Л. Юрэнка (да 15.11.1943), В. М. Чачулаў (з 15.11.1943); сакратары па прапагандзе: Дз. Ц. Шырокаў (да 15.11.1943), М. І. Саўчанка (з 15.11.1943); члены: Юрэнка (да 27.3.1944, загінуў), Я. М. Ніканенка (да 15.11.1943), В. Н. Плюскоў (з 15.11.1943), У. А. Кузьменка, Г. А. Быкаў (абодва са снеж. 1943). |
| Відзаўскі 14.9.1943—4.7.1944 | Сакратары: В. М. Чарных (да 5.5.1944, загінуў), Дз. С. Юракаў (з 15.5.1944); сакратары па прапагандзе: У. В. Мацук (да 1.1.1944), Юракаў (1.1—15.5.1944); члены: Ю. І. Каршакова, С. І. Каштальянаў, М. А. Лысёнак, Мацук. |

кай Чырванасцяжнай стралк. дывізіі (палк. В. Р. Каваленка), 319-й Дзвінскай стралк. дывізіі (палк. Дз. А. Дулаў), 101-й асобнай Казахскай стралк. брыгады (Н. Л. Аліеў), 119-й стралк. дывізіі (ген.-маёр І. І. Харун) 2-га Прыбалт. фронту ў час *Рэжыцка-Дзвінскай аперацыі 1944.* У Р. магіла ахвяр фашызму, месцы расстрэлу падпольшчыкаў, сав. ваеннапалонных, партызан і мірных жыхароў, на іх устаноўлены помнікі; мемар.

Ф. Ф. Раўчакоў. А. М. Рафаловіч.



комплекс на месцы пахавання сав. воінаў, партызан і падпольшчыкаў; помнікі на месцы базіравання Расонскага падп. РК КП(б)Б, Вызвалення, партызанам, якія вызвалілі ў 1942 Расоны, у гонар партыз. брыгад; мемар. дошка ў гонар Расонскага парт.-камсам. падполля. Працуе *Расонскі музей баявой садружнасці.*

*Т. І. Паваліхіна.*

**РАСЮ́К** Фама Маркавіч (19.5.1900, в. Калыбань Брагінскага р-на — 12.8.1986), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Вілейскай вобл. Чл. КПСС з 1932. З 1930 на гасп. і сав. рабоце. У партызанах з чэрв. 1942. З ліст. 1942 у распараджэнні ЦК КП(б)Б, у студз.— ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады 4-й Беларускай,* адначасова ў ліст. 1943 — ліп. 1944 1-ы сакратар Дзісенскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—54 2-і сакратар Мядзельскага РК КПБ.

**РАТКЕ́ВІЧ** Іван Адамавіч (3.7.1898, Барысаў — 16.5.1962), ген.-лейтэнант (1949). Чл. КПСС з 1943. У арміі з 1915, у Чырвонай Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. У Айч. вайну з 1942 на Паўн.-Каўказскім, Сцяпным, 2-м Укр., 3-м Бел. франтах: камандзір батальёна, нач. штаба палка, брыгады, дывізіі. Удзельнік вызвалення Украіны, Вісла-Одэрскай, Усх.-Памеранскай, Берлінскай аперацый. У 1944—57 у Войску Польскім.

**РАЎЧАКО́Ў** Фёдар Фёдаравіч (27.9. 1910, в. Кузькавічы Быхаўскага р-на — 20.4.1952), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1944. Скончыў ваен. ветэрынарна-фельчарскую школу (1933), 2-е Маскоўскае пях. вучылішча (1943). З ліп. 1941 на

| 1 | 2 |
|---|---|
| Глыбоцкі 13.11.1943—3.7.1944 | Сакратар Я. І. Назараў; сакратар па прапагандзе Р. І. Міхнёнак; члены: В. М. Пелюхаў (да 6.5.1944), Г. М. Папоў. У апараце райкома працавалі сувязныя райкома з падп. камсамольскімі і антыфаш. арг-цыямі І. М. Місуна і А. М. Шаранговіч. |
| Дзісенскі 15.11.1943—3.7.1944 | Сакратары: М. С. Шульга (да 6.6.1944, загінуў), М. М. Крашэўскі (з 6.6.1944); сакратары па прапагандзе: Крашэўскі (да 4.3.1944), Р. М. Страціўная (4.3—6.6. 1944, загінула); члены: М. Ц. Глазкін (да 22.2.1944), С. В. Нікіцін, С. М. Утко (з 10.1.1944), М. І. Радзіёнаў (4.3—6.6.1944, загінуў). |
| Докшыцкі 1.10.1942—1.7.1944 | Сакратары: В. Т. Бацечка (да 1.8.1943), М. У. Васілевіч (1.8—29.8.1943), У. С. Свірыд (29.8.1943—15.5.1944, загінуў), І. М. Лабецкі (з 15.5.1944); сакратар па прапагандзе Лабецкі (з 29.8.1943); члены: В. І. Бурачэўскі (да 1.8.1943), М. Р. Лісічкін, У. П. Малаток, М. А. Тукач (усе да студз. 1943), М. Д. Анасёнак (студз.—27.2.1943, загінуў), А. Р. Гмырак (з 27.2.1943), М. М. Васілевіч (са студз. 1943), М. У. Васілевіч, Н. В. Таляронак (абодва з 29.8.1943). |
| Дунілавіцкі снеж. 1942 — сак. 1943; 14.9.1943—3.7.1944 | Сакратары (у снеж. 1942 — сак. 1943 — тройкі): С. С. Татун (да сак. 1943), М. С. Шульга (14.9—1.11. 1943), В. Г. Кудашаў (з 1.11.1943), сакратары па прапагандзе: К. А. Нікалаева (14.9—1.11.1943), Н. І. Папляцеева (з 1.11.1943); члены: Папляцеева (з вер. 1943), Г. А. Ланеўскі, П. А. Альшаннікаў (абодва з 14.9. 1943), В. М. Счасная, А. П. Ермаловіч (абое да сак. 1943, члены тройкі). |
| Ільянскі 14.9.1943—1.7.1944 | Сакратар У. П. Старавойтаў; сакратары па прапагандзе: У. А. Крывіцкі (да 1.1.1944), П. М. Краўчонак (1.1—18.6.1944, загінуў); члены: І. П. Булах, А. К. Гірко, Краўчонак, К. Ф. Равяка (да лютага 1944), В. М. Шалковіч. |
| Крывіцкі 29.8.1943—1.7.1944 | Сакратар В. І. Бурачэўскі, сакратары па прапагандзе: Г. В. Гіраўка (да 15.6.1944, загінула), С. Г. Насекін-Цэнскі (з 15.6.1944); члены: Насекін-Цэнскі, У. Р. Сінкевіч, У. Я. Федараў, А. І. Глеб (з 15.2.1944). |
| Куранецкі 10.10.1943—2.7.1944 | Сакратар С. Н. Андрэеў, сакратар па прапагандзе Г. С. Кашыцкая; член М. М. Мядзведская. |
| Маладзечанскі 4.12.1943—5.7.1944 | Сакратар У. Г. Доктараў; сакратары па прапагандзе: А. І. Усаў (да 10.3.1944), М. А. Агееў (з 10.3.1944); члены: Агееў, В. Ф. Грыгор'ева, Усаў, В. Г. Філіпаў (з 10.3.1944). |
| Міёрскі 25.10.1943—2.7.1944 | Сакратары: А. Ю. Міхасёнак (да 1.3.1944), М. М. Крашэўскі (1.3 — чэрв. 1944); сакратар па прапагандзе М. Ц. Лісічонак (з 1.3.1944), члены: Міхасёнак, Лісічонак, С. А. Храпавіцкі (да 1.3.1944). |
| Мядзельскі 24.12.1942—4.7.1944 | Сакратары: В. М. Асяненка (да 5.5.1943), В. М. Пелюхаў (5.5—3.7.1943), І. Я. Сцяпанаў (з 3.7.1943); сакратар па прапагандзе М. А. Высоцкі (з 1.10.1943); члены: М. М. Місуна, Асяненка (да 1.10.1943), Г. П. Місуна (1.10.1943 — студз. 1944), Э. С. Едус (1.10—1.11.1943), Г. М. Бернякові ч (з 1.12.1943), І. М. Гаўраеў (з 11.3. 1943). |
| Пастаўскі 24.12.1942—4.7.1944 | Сакратары (да 1.10.1943 — тройкі): М. В. Кукель (да 1.10.1943), В. М. Асяненка (з 1.10.1943), сакратар па прапагандзе Л. Ц. Кузьменка (з 1.10.1943); члены: Г. І. Маслоўская, М. К. Асяненка (да 1.10.1943), М. Д. Ляонаў, І. М. Мартынаў (абодва з 1.10.1943). |
| Пліскі 15.12.1942—2.7.1944 | Сакратар Г. І. Кісялёва; сакратары па прапагандзе: М. А. Пляхневіч (да 14.3.1944, загінуў), М. С. Максіменка (з 14.3.1944); члены: Н. А. Райпс (да 17.2.1944, загінула), Максіменка, Л. А. Драздовіч (абедзве з 29.8.1943), С. І. Котаў (з 27.9.1943), А. П. Слабуха (з 15.12.1943). |
| Радашковіцкі 23.8.1943—1.7.1944 | Сакратар В. К. Ліпай (да 20.5.1944); сакратар па прапагандзе В. І. Краўчанка; члены: М. І. Спецыян, М. Ф. Камінская (з 15.9.1943), Г. В. Палубіс (з 1.10. 1943). |

Пауд.-Зах., 2-м і 1-м Бел. франтах. Камандзір стралк. роты ст. лейтэнант Р. вызначыўся ў баях у раёне г. Пулавы (Польшча). 29.7.1944 рота на чале з Р. фарсіравала Віслу, за 2 дні адбіла 8 контратак, падтрыманых танкамі і самаходнымі гарматамі, захапіла вышыню, расшырыла плацдарм, садзейнічала пераправе інш. падраздзяленняў палка. Да 1951 працаваў у органах МУС. Яго імем названы вуліцы ў Магілёве, Быхаве і на радзіме — у в. Кузькавічы, дзе Р. пастаўлены абеліск.

**РАФАЛО́ВІЧ** Аляксандр Міхайлавіч (20.8.1898, г. Ваўкавыск — 2.6.1971), ген.-лейт. авіяцыі (1944). Чл. КПСС з 1927. Скончыў Ваен.-паветр. акадэмію імя Жукоўскага (1936). У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. З 1936 у штабе ВПС РСЧА, з 1939 выкладчык Ваен.-паветр. акадэміі. У Айч. вайну нач. штаба ВПС 12-й і камандуючы ВПС 6-й армій Пауд.-Зах. фронту, нач. паветр.-стралк. службы ВПС Чырв. Арміі; удзельнік абарончых баёў у Зах. Украіне, Барвенкава-Лазоўскай аперацыі, баёў пад Харкавам. У 1946—50 нач. кафедры Ваен.-паветр. акадэміі каманднага і штурманскага саставу ВПС.

**РАШЭ́ТНІКАЎ** Мікалай Арцёмавіч (19. 12.1902, в. Ст. Талачын Талачынскага р-на — 27.11.1982), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1926. Скончыў камуніст. ун-т Беларусі (1933), Рэсп. парт. школу пры ЦК КПБ (1955). З 1927 на культурна-асветнай, сав. і парт. рабоце. З ліп. 1941 на фронце. З чэрв. 1942 камандзір партыз. атрада, у жн. 1942 — чэрв. 1943 — *партызанскай брыгады «Граза»*, з вер. 1943 у распараджэнні БШПР. У 1944—76 на парт., сав., адм.-гасп. рабоце. Дэп. ВС БССР у 1938—47.

**РО́ГАЎ** Міхаіл Сафронавіч (17.10. 1916, в. Верхняя Олба Жлобінскага р-на — 25.10.1944), Герой Сав. Саюза (1945). З 1941 на Пауд., Пауд.-Зах., 2-м Укр. франтах. Старшына эскадрона кав. палка Р. вызначыўся пры вызваленні Румыніі. 29.8.1944 у баі за ўмацаваны раён з 3 добраахвотнікамі пераадолеў міннае поле, ўварваўся ў траншэі ворага, знішчыў разлік станковага кулямёта і дзот, чым садзейнічаў наступленню палка. Загінуў на тэр. Венгрыі. Яго імем названа школа на радзіме.

**РО́ДЗІН** Аляксей Рыгоравіч (17.2. 1902, с. Зуева, Асташкаўскі р-н Калінінскай вобл.— 27.5.1955), ген.-палк. танк. войск (1944). Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1926. У Чырв. Арміі з 1920. Скончыў Ваен. акадэмію механізацыі і матарызацыі РСЧА (1937), Вышэйшыя акадэмічныя курсы пры Ваен. акадэміі Генштаба

| 1 | 2 |
|---|---|
| Свірскі<br>28.9.1943—4.7.1944 | Сакратар М. А. Кузура; сакратар па прапагандзе І. І. Бабоўка; члены: Г. І. Львовіч, І. С. Стаднікаў (з 5.5.1944). |
| Смаргонскі<br>17.10.1943—2.7.1944 | Сакратары: В. Дз. Сюксін (да 1. 11. 1943), Э. С. Едус (з 1.11.1943); сакратары па прапагандзе: Я. Л. Юдзін (да 1.11.1943), У. М. Сіманенка (з 1.11.1943); члены: М. К. Падворны (да 12.11.1943, загінуў), І. У. Враб'ёў, М. Х. Герасіменка, В. М. Дзяльфонцаў (усе з 1.11.1943). |
| Шаркоўшчынскі<br>14.9.1943—2.7.1944 | Сакратар Г. К. Лысёнак; сакратар па прапагандзе М. Д. Смірноў; члены: І. А. Гінько, П. А. Пілецкі, А. А. Ціхаміраве, П. А. Балай, У. У. Боўт, М. П. Брэскі (усе, акрамя Гінько і Пілецкага, з 14.11. 1943). |
| | **ВІЦЕБСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**<br>*(Працавала 20 падпольных райкомаў ЛКСМБ)* |
| Аршанскі<br>20.11.1942—28.6.1944 | Сакратар Б. І. Пятроў (да 20.6.1944, загінуў); сакратар па прапагандзе Дз. С. Падалінскі; члены: Н. Е. Багдановіч (да 1.3.1943), К. В. Грышчанкаў, Р. П. Калінін, М. Ф. Красноўская (усе трое з 20.6.1943), Н. М. Сцефановіч (20.6.1943 — люты 1944), М. П. Скрыпачоў, З. М. Цынгалёва (абое з 20.6.1943), Н. М. Шашун (з 1.1.1944). |
| Асвейскі<br>9.7.1942—10.1.1944 | Сакратар У. І. Хвяжэнка; сакратары па прапагандзе: У. І. Вестэнберг (да 29.8.1942, загінуў), Л. І. Геродзік (30.8.1942—1.4.1943), А. М. Шаўрак (з 10.4.1943); члены: А. А. Наваеўскі, Л. І. Татарынава (да мая 1943), Геродзік (30.8.1942—10.1.1944, загінуў), Я. У. Фралёнак (Громава, з 5.5.1943), І. Ц. Кузьмянкоў (1.6—9.9. 1943, загінуў). |
| Багушэўскі<br>10.7.1942—29.6.1944 | Сакратары: С. І. Бялкоўскі (да 10.3.1943, загінуў), Дз. Г. Хвошч (з 10.3.1943); сакратары па прапагандзе: В. С. Касцючэнка (1.9—1.11.1942), М. М. Дзятлоўскі (1.7—1.9.1943), З. Ф. Чаркасава (з 1.9.1943); члены: Хвошч, Дзятлоўскі (з 1.8.1942), Г. С. Закусава (1.11—30.12.1942), М. М. Рудакоў (1.7—15.11.1943, загінуў), М. В. Шарстнёў (з 1.11.1943), М. Ц. Гарнак, П. А. Лукашоў, У. Т. Рыжыкаў, Г. М. Сапежка (усе з 28.2.1944). |
| Бешанковіцкі<br>6.7 — вер. 1941;<br>1.8.1942—30.6.1944 | Сакратары: Р. П. Жырноў-Літвінаў (да вер. 1941, загінуў), К. К. Шастакова (1.8.1942—1.1.1944), П. У. Путаў (1.1—1.2.1944), М. І. Бірукоў (з 1.2.1944); сакратары па прапагандзе: Путаў (1.3.1943—1.1.1944), С. М. Саўрыцкі (з 1.2.1944); члены: Бірукоў (з 1.8.1942), Путаў (да 1.2.1944), А. І. Каралёў (1.9.1942—5.5.1944, загінуў), І. А. Мамінчанка (з 1.9.1942), Т. П. Рыжыкаў (з 27.3.1943), А. П. Краўчанка (1.6.1943—1.6.1944), М. Ф. Касцюковіч, А. А. Цянюга (абодва 1.6.1943 — чэрв. 1944). Прозвішчы членаў райкома з 6 ліп. да вер. 1941 не ўстаноўлены. |
| Ветрынскі<br>14.9.1942—1.7.1944 | Сакратар Л. І. Дзерваедаў; сакратары па прапагандзе: М. Р. Кацман (1.10—1.11.1942), Н. В. Пятрова (з 27.5. 1943); члены: Кацман, Пятрова, М. Р. Враб'ёва (з 8.11. 1942), А. С. Вячорскі (1.6.1943—8.5.1944, загінуў), Л. М. Пятроўскі (1.6.1943—4.5.1944, загінуў), М. Ф. Бурак (з 1.9.1943). |
| Віцебскі<br>10.5.1942—11.11.1943 | Сакратар Е. А. Крыцкая; сакратары па прапагандзе: В. Дз. Курыленка (да 15.7.1943, загінула), В. А. Загорскі (з 15.7.1943); члены: А. Ц. Юпатаў (да 11.11.1943, загінуў), В. М. Казлоўскі (да 25.9.1943 А. М. Нямыкін (да 1.7.1943), І. Д. Раманаў (17.7.1942—1.3.1943, загінуў). |
| Гарадоцкі<br>23.7.1942—4.11.1943 | Сакратары: А. Д. Чаплінская (да 25.5.1943, загінула), А. С. Петухоў (з 25.5.1943); члены: Петухоў, Т. Н. Зуева (да 8.3.1943), І. Б. Кардаш. |
| Дрысенскі<br>18.6.1942—12.7.1944 | Сакратары: В. А. Бохан (да 1.4.1943), В. Р. Васілеўскі (1.4—1.7.1943), У. Р. Гаўрыловіч (з 1.7.1943); сакратары па прапагандзе: Гаўрыловіч (з 1.3.1943), М. С. Лобыр (з 1.11.1943); члены: У І. Быкоўскі (да студз. 1944), С. І. Кісялёў (да 20.11.1943, загінуў), І. М. Камарова, І. І. Кудзім, Гаўрыловіч (з 1.9.1942), А. А. Яцухна (1.9.1942—20.4.1943), Р. П. Сыраежка (з 1.4.1943). |

(1953). Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну нам. камандзіра танк. дывізіі, камандуючага арміяй па танк. войсках, камандзір танк. брыгады, корпуса, камандуючы арміяй. Удзельнічаў у Ленінградскай, Сталінградскай, Курскай бітвах, Усх.-Прускай аперацыі. У ходзе *Беларускай аперацыі 1944* камандаваў бранятанк. і механіз. войскамі 3-га Бел. фронту. Да 1954 на адказных пасадах у Сав. Арміі.



М. С. Рогаў. С. Дз. Роман.

**РО́МА** Фёдар Дзмітрыевіч (н. 23.2. 1919, с. Ачаратаватае Сямёнаўскага р-на Палтаўскай вобл.), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсам.-маладзёжнага падполля і партыз. руху ў Брэсцкай вобл. Чл. КПСС з 1941. Скончыў ВПШ пры ЦК ВКП(б) (1951). З 1939 упаўнаважаны ЦК ЛКСМБ, 1-ы сакратар Брэсцкага РК ЛКСМБ. У 1941—43 выконваў спецзаданне ЦК КП(б)Б і ЦШПР у Арлоўскай і Маскоўскай абл., у сак. 1943— ліп. 1944 сакратар *Брэсцкага падпольнага абкома ЛКСМБ,* нам. камандзіра *Брэсцкага партызанскага злучэння.* У 1944—67 на камсам., парт. і сав. рабоце. З 1967 старшыня Дзярж. к-та СМ БССР па выкарыстанню працоўных рэсурсаў, з 1976— Дзярж. к-та БССР па працы. Чл. Рэвізійнай камісіі КПБ у 1956—60, чл. ЦК КПБ у 1960—61. Дэп. ВС БССР у 1959—71, чл. Прэзідыума ВС БССР у 1963—67. Аўтар кн. «Мужнела маладосць у баях» (1974).

**РО́МАН** Сяргей Дзям'янавіч (24.9. 1917, г. Ейск Краснадарскага краю — 24.6.1944), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. ВЛКСМ. З 1943 на фронце. Радавы стралк. палка Р. вызначыўся пры вызваленні Палескай вобл. У час прарыву абароны праціўніка каля в. Пружынішчы Парыцкага р-на 24.6.1944 першы падняўся ў атаку, натхняючы байцоў асабістым прыкладам. Паранены, не пакінуў поля бою. У рашаючы момант атакі закрыў сваім целам амбразуру варожага дзота, цаной свайго жыцця забяспечыў поспех наступлення. Пахаваны ў в. Любань Акцябрскага р-на ў брацкай магіле сав. воінаў і партызан; на магіле пастаўлены помнік. Яго імем названы вуліцы ў Ейску, г. п. Акцябрскі, вёсках Любань і Пружынішчы Ак-

| 1 | 2 |
|---|---|
| Дубровенскі 1.11.1942—30.6.1944 | Сакратар М. Н. Балашоў; сакратар па прапагандзе І. У. Мянжынскі; члены: І. Д. Свірыдзенка (да 10.3.1944, загінуў), П. С. Контураў (да 3.5.1944, загінуў), К. К. Ляонава (да 3.5.1944, загінула), Ц. Н. Мацвееў (да 9.5.1944, загінуў). |
| Лепельскі 1.7.1942—29.6.1944 | Сакратар Г. В. Пашкевіч; сакратар па прапагандзе М. Р. Ладзік (з 1.5.1943); члены: Ладзік, П. П. Чаклін (да 15.7.1943), І. К. Баграцоў (з 1.9.1942), В. Д. Ерашоў (1.2.1943—1.4.1944), В. А. Маркевіч (1.6.1943—1.2.1944), Я. П. Марунька (з 1.7.1943), П. К. Пацей (з 1.8.1943), Р. Ц. Армонік (з 1.7.1943), Э. А. Будкевіч (з 1.8.1943), А. М. Булух (з лютага 1944). |
| Лёзненскі 15.8.1941—10.10.1943 | Сакратар Д. А. Дубоўка; сакратар па прапагандзе Л. І. Касцючэнка (з 15.7.1942); члены: Дз. А. Дубоўка, Г. Ф. Шкляр (абодва да 15.7.1942), М. М. Кофтава (з 15.7.1942), І. Н. Скрыннік (1.8.1942—1.1.1943). |
| Мехаўскі 17.7—15.10.1941; 15.4.1942—1.12.1943 | Сакратары: П. А. Бараноўскі (да 15.10.1941, загінуў), П. М. Альшанскі (15.4.1942—10.10.1942), А. Я. Раханаў (з 10.10.1942); сакратар па прапагандзе М. М. Крашэўскі (з 15.4.1942); члены: Раханаў (15.4—1.12.1943), В. Р. Каляда (15.4.1942 — сак. 1943), Ф. Ф. Уклея (15.4.1942—1.6.1943), Т. І. Сеўрукова (15.4.1942—1.8.1943). Прозвішчы членаў райкома з 17.7 да 15.10.1941 не ўстаноўлены. |
| Полацкі 26.5.1942—1.12.1943 | Сакратары: П. П. Ляпко (да 30.8.1942), І. М. Мацвееў (30.8.1942—20.8.1943), Р. І. Макогін (з 20.8.1943); сакратары па прапагандзе: Мацвееў (да 30.8.1942), Ляпко (30.8.1942—5.8.1943); члены: У. Ц. Ганчароў (да 1.7.1943), П. Ф. Сташкевіч, Д. М. Файнгелерынт (1.4—1.9.1943), І. А. Котаў (з 1.8.1942), Ф. Д. Андрэеў (з 1.3.1943), К. П. Вайценка (з 27.5.1943). Прозвішчы членаў райкома з 17.7 да 15.10.1941 не ўстаноўлены. |
| Расонскі 16.7.1941 — вер. 1941; 7.6.1942—3.11.1943 | Сакратары: Д. Л. Задаў (да вер. 1941, загінуў), Я. І. Шаршнёў (з 7.6.1942); сакратар па прапагандзе І. Ф. Канарскі (з 1.4.1943); члены: К. К. Шастакова (да вер. 1941, нам. сакратара), Канарскі (з 16.7.1941), Дз. І. Майсейчанка, Л. Г. Плюскоў, П. Я. Рубіс (усе 7.6.1942—1.9.1943). |
| Сенненскі 11.6.1942—26.6.1944 | Сакратары: Л. С. Кацар (да 15.3.1943; 23.6—25.8.1943), П. Дз. Свірыд (15.3—20.6.1943), П. І. Нікіцін (з 25.8.1943); сакратар па прапагандзе Кацар (15.3—23.6.1943; 25.8.1943—10.3.1944); члены: Г. С. Закусава (да 1.10.1942), А. С. Мурашкевіч, М. С. Чумакоў (абодва 1.8—9.11.1942), М. М. Цуран (з 1.8.1942), С. П. Шышкін (1.8 — вер. 1942), М. Я. Майзіт (1.12.1942—1.2.1943), Э. К. Гарнакова, П. В. Кацар, П. Н. Хірэвіч (усе з 1.7.1943), Г. І. Гаралёва (з 10.7.1943). |
| Сіроцінскі 1.7.1942—2.7.1944 | Сакратар Н. Л. Герман; сакратары па прапагандзе: Ю. А. Царэня (да 1.12.1943), Л. Ф. Сачыўка (з 1.12.1943); члены: П. І. Баранаў (да 31.7.1943), І. П. Шчукін, П. І. Аляксееў (1.9.1942—31.7.1943), І. А. Рассохін (1.12.1942—4.5.1944, загінуў), Я. С. Крахмалёў (31.7.1943—1.1.1944), Н. С. Антонік, М. К. Салаўёў, Ц. Н. Усцінаў (усе з 1.1. 1944), Антонік, Салаўёў і Усцінаў працавалі інструктарамі РК ЛКСМБ па падп. рабоце. |
| Суражскі 12.7.1941—26.10.1943 | Сакратары: Дз. Б. Баранаў (да кастр. 1941, загінуў), П. С. Пятроўскі (кастр. 1941—27.3.1943), В. І. Швыдрык (27.3—1.6.1943), Дз. Ц. Сцяпанаў (з 1.6.1943); сакратары па прапагандзе: Сцяпанаў (1.6.1942—1.6.1943), Швыдрык (з 1.6.1943); члены: Пятроўскі (да кастр. 1941, нам. сакратара), Сцяпанаў (з 1.2.1942), Швыдрык (з 1.6.1942), І. М. Янкевіч (1.2.1942—9.9.1943), К. А. Шабанаў (1.4.1942—24.8.1943, загінуў), А. П. Мяншых (з 1.11.1941), М. М. Няўзораў (з 1.9.1943), С. І. Мацвеева (з 2.7.1942), П. М. Раманаў (1.7—1.9.1942), В. С. Цыганкоў (з 10.8.1943), С. С. Шышпарэнка (14.4—16.7.1943), Н. І. Шлыкава (1.7—25.9.1942). |
| Талачынскі жн. 1942—26.6.1944 | Сакратар Л. М. Міхайлава; сакратар па прапагандзе А. У. Рак; члены: К. В. Блажэвіч, В. І. Маханёк (да 26.2.1944, загінула), А. Дз. Варашэнь (з 16.7.1943), |

цябрскага р-на, школа ў Любані. На месцы здзяйснення подзвігу каля в. Пружынішчы пастаўлена стэла. Навечна занесены ў спісы мотастралк. палка.

**РО́ТМІСТРАЎ** Павел Аляксеевіч (6.7.1901, в. Скаварова Селіжараўскага р-на Калінінскай вобл.— 6.4.1982), гал. маршал бранятанк. войск (1962), Герой Сав. Саюза (1965). Доктар ваен. навук (1956), прафесар (1958). Чл. КПСС з 1919. Скончыў ваен. акадэміі імя Фрунзе (1931), Генштаба (1953). У Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз. і сав.-фінл. 1939—40 войнаў. У Айч. вайну нач. штаба механіз. корпуса, камандзір танк. брыгады корпуса, камандуючы танк. арміяй на Зах., Паўн.-Зах., Калінінскім, Сталінградскім, Варонежскім, Сцяпным, Паўд.-Зах., 2-м Укр. і 3-м Бел. франтах. Удзельнік Маскоўскай, Сталінградскай, Курскай бітваў, вызвалення Украіны, Беларусі і Прыбалтыкі. У *Беларускай аперацыі 1944* 5-я гвардз. танк. армія пад яго камандаваннем удзельнічала ў вызваленні Барысава і Мінска. З жн. 1944 нам. камандуючага бранятанк. і механіз. войскамі Чырв. Арміі. Пасля вайны камандуючы бранятанк. і механіз. войскамі Групы сав. войск у Германіі, Далёкага Усхода. З 1948 нам. нач. і нач. кафедры Ваен. акадэміі Генштаба, з 1958 нач. Ваен. акадэміі бранятанк. войск. З 1964 пам. міністра абароны СССР. З 1968 інспектар Групы ген. інспектараў Міністэрства абароны СССР. Аўтар кніг «Танкавая бітва пад Прохараўкай» (1960), «Час і танкі» (1972), «Танкі на вайне» (4 выд., 1975).

**РУБАНЮ́К** Іван Андрэевіч (29.8.1896, в. Прышаходы, Кобрынскі р-н — 3.10.1959), ген.-палкоўнік (1955). Чл. КПСС з 1922. У арміі з 1915, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. З 1921 камандзір батальёна, палка. У Айч. вайну на Паўд., Закаўказскім, Паўн.-Каўказскім, 3-м і 4-м Укр. франтах: камандзір палка, дывізіі, корпуса. Удзельнік баёў за Растоў, вызвалення Данбаса, Украіны, Крыма, Венскай, Пражскай аперацый. Пасля вайны на адказных пасадах у Сав. Арміі.

**РУ́БІС** Павел Іванавіч (н. 7.2.1923, в. Мікулінкі, Расонскі р-н), поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПСС з 1944. У Айч. вайну партызан Расонскай брыгады імя Сталіна, на фронце з 1943. Камандзір кулямётнага разліку сяржант Р. вызначыўся пры вызваленні Віцебскай вобл., Латвіі. 26.12.1943 праявіў гераізм пры адбіцці варожых контратак; 14.8.1944 агнём з кулямёта прыкрываў пераправу сав. войск цераз р. Ліелупе, знішчыў 2 варожыя кулямёты і 2 гарматныя разлікі; 13.1.1945 у раёне Мемеля знішчыў з кулямёта 30 гітлераўцаў і станковы кулямёт з разлікам. Жыве на радзіме.

| 1 | 2 |
|---|---|
| | А. П. Цюкін (16.7—15.12.1943), С. Ц. Дзямешка (з 28.2. 1944), І. І. Жураўскі (з 1.9.1943), У. П. Ільін (з 1.9.1943). Маханёк і Дзямешка працавалі інструктарамі РК ЛКСМБ па падп. рабоце. |
| Ушацкі 23.7.1942—29.6.1944 | Сакратар У. Я. Васілеўскі; сакратары па прапагандзе: П. П. Клачкоў (да 1.12.1943), А. С. Паршонак (з 1.12. 1943); члены: М. А. Цябут, Клачкоў, Т. У. Станулъ, С. М. Федарэнка (1.9.1942—9.9.1943), Н. І. Кандрацкая (9.9.1942—1.6.1943). Х. М. Ганчароў (з 1.1. 1943), П. П. Кугут, І. Л. Ладупова (абое з 9.9.1943), М. С. Жарнасек, У. Я. Літвін, С. І. Шалыга (усе з 1.3.1943), А. М. Спірыдонак (з 7.5.1943), Н. К. Аніскевіч (з 1.1.1944), А. Я. Жданко (з 15.9.1943). Жарнасек, Літвін, Шалыга, Спірыдонак, Аніскевіч, Жданко працавалі інструктарамі РК ЛКСМБ па падп. рабоце. |
| Чашніцкі 1.8.1942—28.6.1944 | Сакратары: К. П. Захаваева (да 1.4.1944), М. Дз. Жарнасек (з 1.4.1944); сакратары па прапагандзе: М. М. Асіпёнак (31.7—20.11.1943), Жарнасек (20.11.1943—1.4. 1944); члены: Асіпёнак, Н. І. Вайцаховіч, А. Ф. Рагуноў (31.7 — снеж. 1943), П. П. Чаклін (з вер. 1943), А. Д. Шараева (31.7 — снеж. 1943), І. Р. Папко (з 19.7. 1943), А. К. Неплюховіч (з 19.7.1943), В. А. Мацвееў (з 1.4.1944). Папко, Неплюховіч, Мацвееў працавалі інструктарамі РК ЛКСМБ па падп. рабоце. |
| | **ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ** *(Працавала 14 падпольных райкомаў ЛКСМБ)* |
| Буда-Кашалёўскі 1.6—25.11.1943 | Сакратар М. І. Бортнік; сакратар па прапагандзе М. Я. Ханяк; члены: В. А. Сінёва, Ц. Ф. Сцепаненка (да 25.10.1943), М. П. Севасценка (да жн. 1943, загінуў). |
| Веткаўскі 3.9—2.10.1943 | Сакратар С. К. Цярэшчанка. Функцыі членаў райкома выконвалі члены Кармянскага падп. РК ЛКСМБ. |
| Добрушскі ліп.— 27.9.1943 | Сакратар В. П. Вырвіч, сакратар па прапагандзе Т. М. Войкава, член А. Л. Бабкоў. |
| Жлобінскі ліп. — кастр. 1942; май — 25.11.1943 | Сакратары: М. Ф. Юрскі (да 1.10.1942, загінуў), П. Я. Скварчэўскі (з мая 1943); сакратар па прапагандзе В. П. Махнач (з 1.9.1943); члены: І. Н. Наметаў (да кастр. 1942, нам. сакратара з мая 1943), С. А. Каваленка, Махнач (май — ліст. 1943), Н. В. Злынаў, Р. П. Завадзеўкін, А. С. Бабкова, Т. І. Раміська, А. С. Смолкін, Г. В. Канаплянікава (усе з мая 1943). |
| Журавіцкі 1.4—5.10.1943 | Сакратары: Я. С. Лазараў (да 25.7.1943), М. А. Дзмітрыеў (з 25.7.1943); сакратар па прапагандзе М. Л. Хілінскі; члены: Н. У. Юшкевіч, К. Ф. Чарненка (з 1.9.1943), Дзмітрыеў (з 28.6.1943). |
| Кармянскі 15.8.1941—2.10.1943 | Сакратары: М. Ц. Рыцікаў (да мая 1943), А. В. Кузьмянкоў (з 1.2.1943); сакратар па прапагандзе В. М. Ушаў (з мая 1943); члены: Кузьмянкоў, М. П. Ганжураў, А. К. Курганаў (абодва з мая 1943), В. С. Зуркоў (з 27.7.1943), А. К. Бісюкова (з вер. 1943). |
| Лоеўскі 1.11.1942—24.11.1943 | Сакратар А. Я. Шамелаў; сакратар па прапагандзе В. Я. Вайцяшэнка (з 1.3.1943); члены: М. Ф. Вінічэнка, К. С. Драбышэўская (з 30.7.1943). |
| Рагачоўскі 15.8.1941—28.6.1944 | Сакратары: А. А. Бірукоў (да 1.7.1943), М. Ф. Шабеткін (1.8.1942—30.12.1943), М. Я. Ханяк (з 8.1.1944); сакратар па прапагандзе В. П. Данілаў (1.4—29.8.1943): члены: М. Я. Данілава, В. Г. Туманаў (да кастр. 1941, загінуў), А. М. Дычкоў (да кастр. 1941), Шабеткін (1.4.1942—30.12.1943), І. Л. Шыцікаў (1.9. 1942—26.3.1943, загінуў), А. І. Красічкаў (з 20.4.1943), Н. А. Цэйтлін (з 1.7.1943). |
| Рэчыцкі 25.6.1942—17.11.1943 | Сакратары: У. Р. Хамёнак (да 1.5.1943), У. Ц. Галаўнёў (1.5—6.6.1943), А. В. Карбаценка (з 6.6.1943); сакратар па прапагандзе М. С. Храмчанка; члены: П. В. Зюскевіч, У. Я. Смоліч, М. П. Трус (абодва з ліст. 1942), Карбаценка (з 1.12.1942), Б. Я. Шмідаў (1.12.1942—7.5.1943, загінуў). |
| Свяцілавіцкі 3.9—2.10.1943 | Сакратар І. І. Захарчанка; сакратар па прапагандзе П. С. Рабашапкаў; член М. Я. Зацееў. |

**РУ́БЧЫКІ,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1 км на Пд ад в. Выдрыцкія Каханавіцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 96 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 51 жыхара, вёску (20 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1982 на месцы спаленай вёскі насыпаны курган, пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

П. А. Ротмістраў. П. І. Рубіс.



**РУДАБЕ́ЛЬСКІЯ «ВАРО́ТЫ»,** разрыў шырынёй каля 10 км у лініі ням. фронту групы армій *«Цэнтр»* паміж Азарычамі і Парычамі, утвораны ў выніку *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943* і баявых дзеянняў *партызанскай брыгады 123-й Акцябрскай імя 25-годдзя БССР.* Існавалі з канца ліст. да канца снеж. 1943. Подступы ўтрымлівалі 37-я (ген.-маёр Я. Р. Ушакоў) і 60-я (палк. А. В. Багаяўленскі) стралк. дывізіі 65-й арміі Бел. фронту і партызаны Палескага і Мінскага злучэнняў. Праз Р. «в.» ў тыл ворага накіроўваліся разведгрупы і сувязныя, спец. групы палітработнікаў, прадстаўнікі армейскага камандавання для каардынацыі дзеянняў з партызанамі, дастаўляліся зброя, боепрыпасы, медыкаменты, літаратура. З акупіраванай тэр. партызаны перадавалі камандаванню Чырв. Арміі неабходныя разведданыя, забяспечвалі армейскія часці праваднікамі, перапраўлялі ў сав. тыл параненых і хворых, вывелі некалькі дзесяткаў тысяч мірных жыхароў, больш за 10 тыс. добраахвотнікаў, якія папоўнілі рады 65-й арміі. Сяляне накіроўвалі абозы з хлебам, жывёлу. Так, у снеж. насельніцтва і партызаны з Петрыкаўскага р-на адправілі часцям Чырв. Арміі 20 т хлеба і 42 галавы буйной рагатай жывёлы, з Глускага р-на адпаведна — 37 і 68, з Акцябрскага р-на — каля 100 і 150. Абоз з хлебам і мясам накіравала насельніцтва Капаткевіцкага р-на. У канцы снеж. гітлераўцы буйнымі сіламі прарвалі абарону 37-й і 60-й дывізій і партызан і закрылі Р. «в.». З падраздзяленняў 37-й і 60-й стралк. дывізій, што засталіся ў тыле ворага, быў сфарміраваны зводны полк пад камандаваннем палк. Н. І. Фрэнкеля,

| 1 | 2 |
|---|---|
| Стрэшынскі<br>май — 21.11.1943 | Сакратары: І. П. Грыневіч (да 1.6.1943), Л. Е. Ерашэвіч (з 1.6.1943); члены: Ерашэвіч, В. Р. Крышнёва, П. Дз. Пацаў, М. М. Савельеў. |
| Уваравіцкі<br>май — 27.11.1943 | Сакратар Е. С. Салаўёва; сакратар па прапагандзе С. І. Карлоўскі; члены: П. Ф. Кочкін, С. І. Коцур, В. В. Юдзін. |
| Цэрахоўскі<br>чэрв.— 27.9.1943 | Сакратары: Ф. Ц. Дуброўскі (да 7.7.1943, загінуў), Т. Ф. Карнеенка (з 7.7.1943); член Карнеенка. |
| Чачэрскі<br>май — 2.10.1943 | Сакратары: В. С. Длліннікаў (да 9.9.1943), І. М. Піскуноў (з 9.9.1943); сакратар па прапагандзе М. М. Механікаў; члены: В. М. Кукарэка, У. С. Пугін, І. Дз. Рогач. |
| | МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ<br>*(Працавала 20 падпольных райкомаў ЛКСМБ)* |
| Асіповіцкі<br>14.10.1942—2.7.1944 | Сакратары: І. Б. Гнядзько (да 20.8.1943), Э. Ф. Паўлюц (з 20.8.1943); сакратар па прапагандзе У. І. Кулікаў (з ліст. 1942); члены: Л. І. Ахпаш, Р. Х. Голанд [адначасова сакратар, 2-і сакратар Асіповіцкага падп. РК КП(б)Б], В. А. Сёмін, Паўлюц, М. М. Барадулін (з 1.3.1943), І. А. Дашкевіч, Ф. А. Крыловіч, С. Ф. Важнік, А. К. Пармон (усе з 20.8.1943), З. І. Глебава (з 2.4.1944), А. Ф. Ганчаронак (з 2.4.1944). |
| Бабруйскі<br>14.10.1942—30.6.1944 | Сакратары: М. І. Семісалаў (да 14.4.1943, загінуў), М. А. Тоўспік (з 14.4.1943, зацверджаны 1.11.1943 Магілёўскім падп. абкомам ЛКСМБ); сакратар па прапагандзе А. М. Баландзіна (12.4.1943—1.1.1944); члены: Л. І. Нікульнікаў, Г. М. Смольнікава, Л. М. Нароўская (да 2.4.1943), У. В. Шылаў (люты — 25.12.1943), П. М. Варывончык, А. П. Харламаў (абодва з 3.8. 1943). |
| Быхаўскі<br>вер. 1942—24.4.1944 | Сакратары: В. М. Куракін (да 27.2.1943), П. М. Караленка (з 27.2.1943); сакратары па прапагандзе: Куракін (27.2—1.7.1943), Л. П. Ракіцянская (з 1.7.1943); члены: А. С. Ісакаў (да 1.12.1943), Куракін, А. І. Вараб'ёва, П. М. Дамброўскі (абое з 1.3.1943). |
| Бялыніцкі<br>14.2.1943—30.6.1944 | Сакратары: К. Л. Калакустаў (да 4.12.1943, загінуў), П. Я. Мякоценка (з 9.1.1944); сакратары па прапагандзе: У. В. Лапухін (да 1.8.1943), Ф. А. Ахламёнак (1.8—1.9.1943), С. Я. Янчанка (1.9. 1943—19.2.1944), І. А. Марозаў (з 19.2.1944); члены: Марозаў (з 1.3.1944), Н. І. Піцукова (да 11.8.1943), В. К. Старавойтаў, М. Ф. Шакалюк (абодва да мая 1943), С. С. Сабалеўскі (з 16.5.1943, адначасова сакратар Магілёўскага гаркома ЛКСМБ). |
| Бярэзінскі<br>3.7.1941 — жн. 1941;<br>3.9.1942—2.7.1944 | Сакратары: А. М. Ільінскі (да жн. 1941, загінуў), М. Ф. Пыж (з 3.9.1942); сакратары па прапагандзе: І. К. Слабко (3.9.1942—19.8.1943), У. Ц. Піскун (19.8—30.10.1943), У. І. Жураўскі (з 1.11.1943); члены: В. А. Бегуновіч (з 3.9.1942), М. І. Субач (3.9.1942 — снеж. 1943), М. І. Цітоў (3.9.1942—1.1.1944), І. К. Слабко (3.9.1942—2.10.1943), П. Ф. Грышановіч (снеж. 1943, адначасова сакратар па прапагандзе Барысаўскага падп. РК ЛКСМБ), В. А. Ермаловіч, Г. Ц. Крыварот (абодва са снеж. 1943), А. С. Лапцёнак (вер.— 28.11. 1943, загінуў), М. А. Булаўскі (з 30.6.1943). Прозвішчы членаў райкома ЛКСМБ з 3 ліп. да жн. 1941 не ўстаноўлены. |
| Горацкі<br>5.1—2.12.1943 | Сакратары: С. Я. Янчанка (да 18.9.1943), Б. П. Чарнякоў (18.9—28.10.1943, загінуў), М. М. Маракоў (з 28.10. 1943); сакратар па прапагандзе Маракоў (1.7—28.10. 1943); члены: А. З. Васільеў (да 18.9.1943), У. Ф. Мацюшэнка (да 18.9.1943), Ю. А. Бабурскі, Р. Я. Глекаў, Я. Е. Дзмітрыеў (усе з 18.9.1943). |
| Дрыбінскі<br>снеж. 1942 — кастр. 1943 | Сакратар М. Ф. Сугака; члены: М. М. Няскрэба, М. Я. Шайко (з 30.8.1943). |
| Касцюковіцкі<br>15.5—1.10.1943 | Сакратар І. Б. Ісачанка; члены: М. А. Кузьмянкоў, М. А. Брагінская, П. В. Яршоў. |
| Кіраўскі<br>5.10.1942—27.6.1944 | Сакратар М. К. Аніпчанка; сакратар па прапагандзе І. М. Савіцкі; члены: С. М. Беразоўскі (да 9.11.1942, |

якія каля 2 месяцаў разам з партызанамі вёў актыўныя баявыя дзеянні. 16.2.1944 полк прарваўся праз лінію фронту.

У гонар Р. «в.» каля в. Мікуль-Гарадок Акцябрскага р-на ў 1976 пастаўлены абеліск. *А. А. Каваленя.*

**РУДА́К** Аркадзь Дзянісавіч (н. 25.12. 1911, в. Валосавічы Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл.), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Гомельскай вобл., дзярж. і парт. дзеяч БССР, ген.-маёр (1966). Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Чл. КПСС з 1939. Скончыў ВПШ пры ЦК ВКП(б) (1948). З 1939 1-ы сакратар Гомельскага абкома ЛКСМБ. З 19.8.1941 да 26.11. 1943 1-ы сакратар ***Гомельскага падпольнага абкома ЛКСМБ,*** адначасова чл. ***Гомельскага падпольнага абкома КП(б)Б*** і штаба ***Гомельскага партызанскага злучэння.*** З 1944 у Гомельскім абкоме, ЦК КПБ. З 1957 1-ы сакратар Мінскага гаркома КПБ, кіраўнік спраў СМ БССР. У 1960—71 1-ы нам. старшыні КДБ пры СМ БССР. Канд. у чл. ЦК КПБ у 1952—54, чл. ЦК КПБ у 1954—61. Чл. Рэвізійнай камісіі КПБ у 1961—71. Дэп. ВС БССР у 1951—71. Аўтар мемуараў «Экзамен на сталасць» (1981).

**РУ́ДАЎ** Пётр Фёдаравіч (12.7.1906, в. Падмішнеўе Шумілінскага р-на — 21.12.1978), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Вілейскай вобл. Чл. КПСС з 1932. З 1930 у органах АДПУ, з 1939 на парт. рабоце, у Чырв. Арміі. У партызанах з ліп. 1942: камандзір групы, атрада, у жн. 1943 — сак. 1944 камісар ***партызанскай брыгады імя М. І. Кутузава,*** адначасова чл. Крывіцкага падп. РК КП(б)Б. З 1944 у ЦК КП(б)Б, з 1948 1-ы сакратар Плешчаніцкага РК КПБ, з 1953 на парт. і адм.-гасп. рабоце ў Слуцку і Мінску.

**РУДАЯ́ВАРСКІЯ БАІ́ 1942, 1944,** баі партыз. атрадаў 3649-га і Арлянскага (пазней атрады «Перамога» і «Барацьба» ***партызанскай брыгады Ленінскай***) 25.10.1942, атрада «Ленінскі» гэтай жа партыз. брыгады 19.3. 1944 супраць ням.-фаш. захопнікаў у в. Руда Яварская Казлоўшчынскага р-на.

На працягу 1942—44 партызаны некалькі разоў грамілі варожы гарнізон у в. Руда Яварская. Найбольш значнымі былі баі ў кастр. 1942 і сак. 1944. 23.10. 1942 у в. Руда Яварская прыбыў спец. паліцэйскі батальён для арг-цыі там гарнізона з мэтай паралізаваць дзеянні партызан у навакольных лясах. Камандаванне партыз. атрадаў 3649-га (камандзір Б. А. Булат) і Арлянскага (М. Р. Вахонін) прыняло рашэнне не даць замацавацца праціўніку і знішчыць яго.

Ноччу 25.10.1942 атрады сканцэнтраваліся за паўкіламетра ад вёскі і акружылі яе. Раніцай пасля арт. падрыхтоўкі пры падтрымцы броне-

| 1 | 2 |
|---|---|
| | загінуў), Г. М. Чайка (кастр. 1942), А. П. Шрубаў, В. М. Баркоўская (з 14.2.1943), К. Ф. Салдаценка (14.2.1943—26.2.1944), У. Ф. Вяракса (16.5.1943 — май 1944). |
| Клімавіцкі 25.5—30.9.1943 | Сакратар І. Ф. Манцураў; сакратар па прапагандзе В. Н. Багданаў; члены: Я. Е. Антоненка, С. М. Цішчанка (да 7.6.1943, загінуў). |
| Клічаўскі 24.4.1942—28.6.1944 | Сакратары: А. С. Дайнека (да 31.3.1943), М. Д. Лапцёнак (31.3.1943—10.2.1944), В. Р. Якавенка (10.2—10.5.1944), Г. К. Шамаль (з 10.5.1944); сакратары па прапагандзе: А. Ф. Ачыновіч (да 30.8.1943), Якавенка (30.8.1943—10.2.1944), члены: Лапцёнак (да 10.2.1944), Ачыновіч, М. Ф. Белабароды, П. М. Вікторчык (з 8.9.1942), Я. К. Коўрык (да 18.9.1942), Э. Г. Буцвілоўскі (з 17.6. 1943), У. П. Раманенка (да 8.9.1942), М. Ф. Шамаль (18.9.1942—10.3.1943, загінуў), С. М. Патупчык (з 17.6. 1943), У. П. Чумак (з 2.7.1943), М. Я. Лупачоў (з мая 1943), В. А. Балтушка (31.3 — ліст. 1943), І. М. Кніга (з 1.9.1942), І. П. Ізох (з 1.1.1944). |
| Краснапольскі 19.6—1.10.1943 | Сакратар П. П. Кушнарэнка; сакратар па прапагандзе П. Я. Тарасенка; члены: В. З. Даніленка, А. А. Суслаў, Р. М. Мазыгін, І. С. Жлоба, Л. Я. Даўбешкіна, С. Н. Адзегаў. |
| Круглянскі 23.3.1943—29.6.1944 | Сакратары: П. Я. Мякоценка (да 20.9.1943), Дз. А. Кулікаў (20.9.1943—1.5.1944), В. С. Савічаў (з 1.5.1944); сакратар па прапагандзе Ф. Я. Латыш; члены: Савічаў, Г. Я. Смірнова, М. П. Стрыкаў (1.10—1.12.1943), Ф. Ц. Шмяркоў (з 1.10.1943), М. К. Венядзіктава (ліст. 1943). |
| Крычаўскі 21.6—1.10.1943 | Сакратар У. А. Есіпаў; сакратар па прапагандзе Дз. Я. Грыгор'еў (з 2.9.1943); члены: Грыгор'еў, В. І. Дварачанка, П. П. Дзямідава. |
| Магілёўскі люты 1943—30.6.1944 | Сакратар В. І. Новікаў; члены: М. Я. Кулікаў (да 21.6.1943), С. І. Маскалькоў, П. Л. Кулікаў (з 21.6. 1943), Б. З. Сцяблінскі (1.9—1.12.1943). |
| Мсціслаўскі 28.8—30.9.1943 | Сакратар Дз. А. Храмаў; сакратар па прапагандзе М. М. Гарусаў; член Д. Ф. Войстрава (да 30.2.1943, загінула). |
| Прапойскі 1.6 —1.10.1943 | Сакратар В. П. Самусенка, сакратар па прапагандзе П. Г. Кудраўцаў; члены: В. А. Драздоў, А. А. Клішкоў, П. П. Капдрацьеў, І. А. Марчанка, Я. Д. Марозаў, А. В. Шэдаў. |
| Чавускі 1.6—1.10.1943 | Сакратар І. К. Сушчэўскі; сакратар па прапагандзе Р. У. Кукушкін; члены: Р. А. Бойка, Л. І. Цярэшка, М. Я. Шайко (да 30.8.1943), І. Я. Антоненка (з 1.8.1943). |
| Чэрыкаўскі 1.6—1.10.1943 | Сакратар І. І. Касцючэнка, члены: Ф. С. Нікіфараў, У. У. Тыдэман. |
| Шклоўскі 1.6.1943—29.6.1944 | Сакратар М. А. Іваноў; сакратары па прапагандзе: У. В. Міцін (да 1.10.1943), Ш. Л. Кеслер (з 1.11.1943); члены: К. П. Захарчанка, П. А. Галіцын, В. Ф. Чэбышаў, С. І. Абухаў, У. П. Аляхновіч (абодва з 22.4.1944). |
| | МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ *(Працавала 24 падпольныя райкомы ЛКСМБ)* |
| Барысаўскі жн. 1942—2.7.1944 | Сакратары: А. М. Сляпцоў (даваен. сакратар, у ліп. 1941 — лютым 1942 сакратар Барысаўскага падп. РК ЛКСМБ, загінуў), С. С. Сахончык (да студз. 1943), У. Дз. Бухарын (Гранаў, 30.11.1942—1.1.1943, адначасова сакратар Барысаўскага падп. гаркома ЛКСМБ), У. Ф. Віторскі (з 1.1. 1943); сакратар па прапагандзе П. Ф. Грышановіч (з 6.6.1943); члены: Г. Р. Каўзановіч (да 1.12.1942), В. А. Тышкевіч (да 1.10.1942), У. Ф. Віторскі, Грышановіч, Ф. С. Аляксееў (усе трое з ліст. 1942), Ф. Ф. Віторскі (з 1.1.1943), В. С. Клімчык (з чэрв. 1943), П. К. Шостак (з чэрв. 1943), М. Я. Клімчык (са студз. 1944), В. С. Клімчык і Шостак працавалі інструктарамі РК ЛКСМБ па падп. рабоце. |
| Бягомльскі жн. 1942—28.6.1944 | Сакратары: Ф. І. Дзернушкоў (да 1.12.1943), А. Ф. Фрол |

дзіннага бою праціўнік быў выбіты з акопаў, частка гітлераўцаў вырвалася з акружэння. У баі партызаны знішчылі каля 50 гітлераўцаў і 10 узялі ў палон. Да сак. 1944 Рудаяварскі гарнізон, які налічваў каля 130 гітлераўцаў, быў значна ўмацаваны траншэямі з некалькімі кулямётнымі гнёздамі, меў 5 бункераў. Пад кіраўніцтвам камандзіра атрада «Ленінскі» В. С. Біцько і нач. штаба брыгады Ленінскай Г. А. Шубіна нар. мсціўцы 19.3.1944 пасля стараннай падрыхтоўкі з дапамогай мясцовых жыхароў скрытна праніклі ў распалажэнне праціўніка і без бою захапілі 4 бункеры. Жорсткі бой завязаўся каля 5-га бункера і ў будынку школы. Партызаны былі вымушаны адысці, захапілі ў палон 60 гітлераўцаў, 48 вінтовак, 4 кулямёты і патроны да іх.

*М. Ф. Шумейка.*

**РУ́ДЗЕНСК,** гар. пасёлак у Пухавіцкім р-не. За 22 км на ПнЗ ад г. Мар'іна Горка, чыг. станцыя на лініі Мінск — Асіповічы, аўтадарогай звязаны з аўтамагістраллю Мінск — Бабруйск. У 1938—60 цэнтр Рудзенскага р-на. 30.6.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія за час акупацыі загубілі ў Р. і раёне 4750 чал. У Р. і раёне дзейнічалі *Рудзенскае партыйна-камсамольскае падполле,* Рудзенскія падп. райкомы КП(б)Б (ліп. 1941— сак. 1942; кастр. 1942— ліп. 1944) і ЛКСМБ (9.11.1942—4.7.1944). У жн. 1941 з складу парт.-камсам. групы на чале з сакратаром Рудзенскага РК КП(б)Б М. П. *Пакроўскім* і ваеннаслужачых, што трапілі ў акружэнне, створаны партыз. атрад, пазней атрад «Беларусь» *партызанскай брыгады «Беларусь».* У жн. 1941 камандуючы ням. ахоўнымі войскамі на Беларусі ў данясенні ў Берлін называў раён Р. сярод раёнаў, дзе адбываліся частыя баі з магутнымі партыз. атрадамі. У снеж. 1941 на чыг. станцыі партызаны знішчылі 300 т збожжа, нарабаванага акупантамі ў насельніцтва і падрыхтаванага для вывазу ў Германію. Дзейнічалі партыз. брыгады «Беларусь», 1-я і 2-я Мінскія, 3-я Мінская імя Будзённага, «Буравеснік», імя Калініна, імя Кірава, імя Чапаева, М. М. Нікіціна, асобныя партыз. атрады імя Сталіна, імя Калініна, «Мсцівец» (гл. адпаведныя артыкулы); выдавалася падп. газ. «В бой за Родину», з мая 1943 — *«Бальшавіцкі сцяг».* Вызвалены 4.7.1944 партызанамі брыгады «Беларусь» (камандзір А. С. Юркаўцоў), якія ўзаемадзейнічалі з часцямі Чырв. Арміі ў ходзе *Мінскай аперацыі 1944.* У Р. брацкая магіла сав. воінаў, 2 магілы ахвяр фашызму, на якіх пастаўлены помнікі.

*Т. І. Паваліхіна.*

**РУ́ДЗЕНСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з ліп. 1941 да ліп. 1944 у г. п. Рудзенск і Рудзенскім р-не пад кіраўніцтвам Рудзенскага падп. РК КП(б)Б. Аб'ядноўвала 12 груп, 75 чал., у т. л. 25 ка-

| 1 | 2 |
|---|---|
| | (з 1.12.1943); сакратар па прапагандзе Фрол (1.11. 1942—1.12.1943); члены: А. С. Кулакоў (да студз. 1943), І. Ф. Мацюнін, Фрол (з кастр. 1942), А. С. Ставер (з 6.1.1943), П. З. Батура, В. П. Ковель, В. І. Шпак (усе з 6.10.1943). |
| Грэскі 1.12.1942—1.7.1944 | Сакратары: П. Е. Папоў (да 1.11.1943), А. М. Сурда (з 1.11.1943); сакратары па прапагандзе: Т. М. Беразоўскі (да 29.6.1943), Ц. І. Юр'еў (з 29.6.1943); члены: Сурда (з 1.1.1943), Беразоўскі, Юр'еў, П. І. Урбан (да 1.1.1944), П. А. Гаўрыловіч (19.4 —1.7.1943), К. Л. Крыцкі (19.4—30.5.1943), Дз. М. Лях (крас.—5.9.1943, загінуў). |
| Дзяржынскі кастр. 1942—4.7.1944 | Сакратары: І. Р. Вараб'ёў (да 28.6.1943), М. Я. Новікаў (з 29.6.1943), сакратар па прапагандзе П. К. Дзесюкевіч (да 8.3.1944, загінуў); члены: Вараб'ёў (з 29.6.1943), С. А. Скрыпко (да 28.6.1943), А. А. Вашкевіч, З. Ю. Гінзбург (абодва з 29.6.1943). |
| Заслаўскі снеж. 1942—2.7.1944; газ. «Партизан-комсомолец» | Сакратар М. С. Сіманенка; сакратары па прапагандзе: В. І. Вітушка (да 30.8.1943), М. П. Собалеў (з 30.8.1943); члены: Я. К. Фралёнак (да 14.6.1944, загінуў), Ф. Ц. Усікаў (з 13.7.1943), Д. Л. Капілевіч, Б. Ф. Мярэлікін (адначасова сакратар Мінскага падп. гаркома ЛКСМБ), М. Я. Нікалаеў (адначасова сакратар Мінскага падп. гаркома ЛКСМБ, усе з 30.9.1943), Г. К. Паповіч (з 21.7.1943), У. С. Рыжэвіч (з 5.9.1943), Л. У. Белавус (з 7.10.1943), М. М. Раўко (з 5.9.1943), Л. Л. Драгун (з 25.1.1944), І. К. Саўчанка (студз. 1943), М. П. Калінін (з 25.1.1944), Паповіч, Рыжэвіч, Белавус, Раўко, Драгун, Саўчанка, Калінін працавалі інструктарамі РК ЛКСМБ па падп. рабоце. |
| Капыльскі 7.4.1943—1.7.1944 | Сакратары: В. П. Сергіеня (да 31.10.1943), А. А. Кандыбовіч (з 31.10.1943), сакратар па прапагандзе У. С. Лобан (31.10.1943—10.5.1944); члены: Кандыбовіч, Сергіеня, С. Т. Завадскі (да 7.4.1944, загінуў), В. І. Кіян, В. С. Бохан (16.7.1943—май 1944), П. Ф. Смірноў (з 5.6.1943), П. М. Передок (з 1.9. 1943), К. Л. Крыцкі (з 31.10.1943), М. А. Чыжоў (20.11.1943—10.5.1944), А. А. Балабін, І. С. Карпук (абодва з 10.5.1944), У. Е. Батура (з 16.7.1943; працаваў інструктарам РК ЛКСМБ па падп. рабоце). |
| Крупскі 30.11.1942—1.7.1944 | Сакратары: І. Р. Хадакевіч (да 25.12.1942), Г. Я. Смірнова (25.12.1942—30.5.1943), І. В. Букач (з 1.6.1943); сакратар па прапагандзе П. Е. Казлоўская; члены: М. П. Стрыкаў (да 1.2.1943), А. М. Якаўлеў, А. Л. Гейхман (з 20.2.1943). |
| Лагойскі 30.11.1942—3.7.1944 | Сакратары: М. М. Андрэеў (15.12.1942—20.4.1944), А. С. Фурс (з 20.4.1944); сакратар па прапагандзе Б. Д. Антановіч (16.12.1942—чэрв. 1944, загінуў); члены: Фурс (з 1.7.1943), А. А. Клімаў, А. І. Салтыкоў (да 1.6.1943), Б. І. Саўрыцкі (з 1.7.1943), К. В. Лабунскі (ліст. 1943—30.6.1944, загінуў). |
| Любанскі 1.10.1942—1.7.1944 | Сакратар А. П. Майстрэнка; сакратары па прапагандзе: З. С. Дубрава (Савіна, да 1.10.1943), І. К. Берднікові ч (в. а. з 1.10.1943); члены: Бердніковіч, Ц. К. Калядка (з чэрв. 1943), І. С. Філазафовіч (з 10.2.1944), А. Дз. Шаўцоў. |
| Мінскі 1.9.1942—1.7.1944 | Сакратары: Л. Г. Гайдучонак (да 20.5.1943, загінула), Л. М. Нароўская (20.5—10.10.1943), С. С. Луцэвіч (з 10.10.1943); сакратары па прапагандзе: С. Л. Баркан (да 20.4.1943), Б. Б. Келер (20.4—16.7.1943), У. М. Леановіч (з 16.7.1943); члены: В. І. Дуко (да кастр. 1942, загінуў), Л. П. Бельскі, П. С. Лавецкі (абодва з 1.6. 1943), С. М. Пісарчык (з 7.3.1943). |
| Плешчаніцкі 20.11.1942—1.7.1944 | Сакратар М. Ф. Шарыпава; сакратар па прапагандзе М. І. Алай (да 12.6.1944, загінуў); члены: М. А. Тарасевіч, А. М. Алесін, С. А. Бурак, І. І. Мароз (усе трое з 9.4.1943), Г. І. Каспяровіч, І. Р. Хадакевіч (абодва з 1.11.1943). Алесін, Бурак, Мароз, Каспяровіч працавалі інструктарамі РК ЛКСМБ па падп. рабоце. |
| Пухавіцкі 1.10.1942—2.7.1944 | Сакратары: С. А. Пілатовіч (да 1.11.1942), П. М. Асадчык (з 1.10.1942); сакратар па прапагандзе П. С. Слямя- |

муністаў і 13 камсамольцаў. Арганізатар і першы кіраўнік М. П. *Пакроўскі*. Падпольшчыкі былі звязаны з партыз. атрадам імя Сталіна. Групы: 1-я Рудзенская (кіраўнікі В. І. Шкурдзюк і М. В. Данільчык), 2-я Рудзенская (С. М. Малашонак і С. І. Шэлег), у в. Дукорка (В. В. Мешчаракоў, К. В. Людчык, А. Р. Гарбацэвіч), у в. Голацк (А. А. Сачак), у в. Дудзічы (В. П. Адамовіч), у в. Караваева (С. З. Саранча), у в. Каробавічы (В. Д. Рагатка), у в. Крыстамполле (Н. Г. Андрэеў і І. Г. Шэлег), у в. Азярычына (М. Т. Шайбак), у в. Сяргеевічы (Ф. Н. Макарэвіч), у в. Цітва (С. К. Доўнар і В. К. Мароз), на торфазаводзе «Дукора» (П. С. Рак і Ф. А. Стуканаў).

Падпольшчыкі вялі паліт. работу сярод насельніцтва; у канцы 1942 перадалі друкарскі шрыфт Рудзенскаму падп. РК КП(б)Б, рыхтавалі кадры для партызан, забяспечвалі партызан зброяй і боеприпасамі, харчамі і медыкаментамі, разведданымі аб праціўніку, зрывалі эканамічныя мерапрыемствы акупантаў, выводзілі са строю лінію тэлеграфнай сувязі Мінск — Пухавічы, абсталяванне торфазавода, узрывалі склады, масты, чыг. збудаванні, знішчалі гітлераўцаў.

У барацьбе з ворагам загінулі З. А. Давідовіч, А. П. Жукоўская, К. В. Людчык, Ф. Н. Макарэвіч, В. К. Мароз, М. І. Насілоўская, А. П. Рак, М. І. Раханскі, А. К. Руды, М. К. Ярмалоўскі. Многія падпольшчыкі ўзнаг. ордэнамі і медалямі. М. П. Пакроўскаму прысвоена званне Героя Сав. Саюза. *А. Б. Рогаў.*

**РУ́ДЗІХА,** вёска на тэр. Гарадоцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на З ад в. Лапцёўка Халамерскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыў 51 чал. У ліст. 1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 20 жыхароў, вёску (15 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**РУ́ДКІН** Піліп Мікітавіч (27.11.1893, в. Чорная Сасна Мсціслаўскага р-на — 12.10.1954), ген.-маёр танк. войск (1943). Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1914. Скончыў Ваен. акадэмію механізацыі і матарызацыі РСЧА (1937). У арміі з 1915. У Чырв. гвардыі з 1917, з 1918 у органах ВЧК, НКУС. У Айч. вайну на Карэльскім, Паўд.-Зах., 1-м і 3-м Бел. франтах: камандзір танк. брыгады, корпуса, нам. камандуючага бранятанк. і механіз. войскамі фронту. Удзельнік Сталінградскай, Курскай бітваў, баёў у Польшчы, Усх. Прусіі. Вызначыўся ў баях пад Кантэміраўкай, Валуйкамі, Харкавам. Да 1952 у Сав. Арміі.

**РУДКО́ВА,** вёска на тэр. Уздзенскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 6 км на У ад в. Цеплень Цепленскага сельсавета. Перад вайной у ёй жылі

| 1 | 2 |
|---|---|
| | нец (з 1.7.1943); члены: Сламянец, І. М. Туміловіч, В. В. Галіцкі (з 1.2.1943). |
| Рудзенскі 9.11.1942—4.7.1944 | Сакратар А. Р. Тарасаў; сакратар па прапагандзе У. С. Багрыцэвіч (з 1.12.1943); члены: М. Я. Якімаў (да 12.3.1943), В. А. Якуш (да жн. 1943), І. С. Фрыдман, Ф. У. Свірыдаў (1.7 — снеж. 1943), К. К. Леўчык (з 1.10.1943), Г. Ю. Бухаўцова (з 1.11.1943, адначасова 25.1—4.7.1944 сакратар па прапагандзе Мінскага Паўд. падп. гаркома ЛКСМБ), Н. Ф. Лукашонак (з 1.1.1944). |
| Слуцкі 1.9.1942—30.6.1944 | Сакратары: Г. М. Абухаў (да 1.10.1943), П. Дз. Локаць (з 1.10.1943); сакратары па прапагандзе: Локаць (да 1.10. 1943), А. А. Трафімовіч (з 1.10.1943); члены: П. І. Убран (да 1.12.1942), М. М. Радкевіч, А. Дз. Шэпель (абодва з 12.4.1943), П. С. Жук (12.4—1.8.1943), М. Ц. Тамуркін (з 1.6.1943). |
| Смалявіцкі 30.11.1942—2.7.1944 | Сакратары: Дз. В. Лёля, У. Я. Сухоцкі (з 4.8.1943); сакратары па прапагандзе: В. П. Усціновіч (да 1.6.1943), К. К. Осіпава (з 1.6.1943);члены: М. У. Лашук, Сухоцкі, А. В. Шлёнскі (з 2.8.1943), А. Ф. Бандарчык (з 5.8.1943), М. У. Пяцько (з 4.9.1943), А. М. Прыбыльскі (з 5.12.1943). Сухоцкі, Шлёнскі, Бандарчык, Пяцько, Прыбыльскі працавалі інструктарамі РК ЛКСМБ па падп. рабоце. |
| Старадарожскі снеж. 1942—28.6.1944 | Сакратары: А. М. Тарасаў (да 1.10.1943), М. Н. Белы (з 1.10.1943); сакратары па прапагандзе: Белы (да 1.10. 1943), М. К. Лізунок (з 1.10.1943); члены: Лізунок, І. У. Цагойка, Я. Е. Кулявец (да 1.1.1944, загінуў). |
| Старобінскі 1.7 — ліст. 1941; 19.3.1943—1.7.1944 | Сакратары: С. Г. Малкін (да ліст. 1941, загінуў), У. М. Казлякевіч (з 19.3.1943); сакратар па прапагандзе І. І. Кузін (з 19.3.1943); члены: А. А. Богус, А. С. Хаміцэвіч (абодва з 19.3.1943). Прозвішчы членаў райкома з 1 ліп. да ліст. 1941 не ўстаноўлены. |
| Уздзенскі 19.4.1943—2.7.1943 | Сакратар М. П. Туміловіч; сакратар па прапагандзе І. Я. Жыгалковіч; члены: В. К. Зуеўская, У. К. Занкевіч (з 26.6.1943), П. П. Юзафовіч (з 6.8.1943), У. М. Кучук, К. П. Трус (абодва з 1.1.1944). Кучук і Трус працавалі інструктарамі РК ЛКСМБ па падп. рабоце. |
| Халопеніцкі 30.11.1942—28.6.1944 | Сакратар І. С. Пыскін; сакратар па прапагандзе Б. А. Пятроўскі; члены: В. І. Вараб'ёў, П. М. Русевіч, Е. І. Яўневіч, А. А. Цімафеева (абедзве з 1.7.1943), Е. І. Зінькевіч (са студз. 1943), П. С. Шалак (з 1.8.1943). Яўневіч, Цімафеева, Зінькевіч і Шалак працавалі інструктарамі РК ЛКСМБ па падп. рабоце. |
| Чырвонаслабодскі 10.3.1943—1.7.1944 | Сакратар М. І. Бурмака; сакратар па прапагандзе Э. А. Маслоўскі (з 1.10.1943); члены: І. А. Клязовіч (да 11.7.1943), Э. К. Мармалеўскі (да 11.7.1943), Л. І. Алфяровіч, І. А. Дубовік (абодва з 1.7.1943), М. А. Аксёнаў, А. А. Гурэцкая, М. М. Зіновенка (усе з 1.1.1944). Гурэцкая і Зіновенка працавалі інструктарамі райкома камсамола РК ЛКСМБ па падп. рабоце. |
| Чэрвеньскі 2.7.1941—3.7.1944 | Сакратары: К. К. Краўчанка (да 1.10.1942), К. М. Рагожына (кастр. 1942—20.2.1943), С. А. Пілатовіч (з 20.2.1943); сакратары па прапагандзе: Рагожына (20.2—26.10.1943), М. А. Шыпуля (з 26.10.1943); члены: У. Я. Качан, Рагожына (1.7.1942—26.10.1943), Г. К. Рудакоў (з мая 1942). |
| Варашылаўскі г. Мінска 15.3—4.7.1944 | Сакратар А. Т. Караткевіч; сакратар па прапагандзе М. А. Шыпуля; абавязкі членаў райкома выконвалі члены Чэрвеньскага падп. РК ЛКСМБ, сакратаром якога адначасова была Шыпуля. |
| Кастрычніцкі г. Мінска 15.3—4.7.1944 | Сакратар В. В. Аляксюк; сакратар па прапагандзе В. М. Сярмяжка; абавязкі членаў райкома выконвалі члены Мінскага падп. РК ЛКСМБ. |
| Сталінскі г. Мінска 15.3—4.7.1944 | Сакратар Дз. І. Левічаў; сакратар па прапагандзе В. Г. Васільева; абавязкі членаў райкома выконвалі члены Рудзенскага падп. РК ЛКСМБ. |

58 чал. 23.1.1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 27 жыхароў, у т. л. 11 жанчын і 13 дзяцей, вёску (11 двароў) спалілі, маёмасць разрабавалі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1970 на месцы вёскі пастаўлены абеліск з барэльефам партызана і партызанкі, на абеліску выбіты прозвішчы загінуўшых і дата. Вёска ўвекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**РУДНЯ,** вёска на тэр. Акцябрскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася ў Акцябрскім сельсавеце. Перад вайной у ёй жыў 361 чал. У крас. 1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 341 жыхара, у т. л. 161 дзіця, вёску (75 двароў) спалілі, маёмасць разрабавалі. Пасля вайны не адрадзілася. На месцы вёскі пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.



П. М. Рудкін. С. І. Рудэнка.

**РУДЭНКА** Сяргей Ігнатавіч (н. 20.10. 1904, г. п. Корап Чарнігаўскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1944), Маршал авіяцыі (1955). Прафесар (1972). Чл. КПСС з 1928. У Чырв. Арміі з 1923. Скончыў Ваен.-паветр. акадэмію імя Жукоўскага (1932, 1936). З 1941 на Зах., Калінінскім, Бранскім, Волхаўскім, Паўд.-Зах., Сталінградскім, Данскім, Цэнтр., Бел. і 1-м Бел. франтах: камандзір авіядывізіі, камандуючы ВПС арміі, франтоў, авіягрупамі Стаўкі ВГК, ВПС фронту, нам. камандуючага і камандуючы 16-й паветр. арміяй. Удзельнік бітваў пад Сталінградам, Курскам, на Дняпры, *Беларускай аперацыі 1944*, *Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944*, Варшаўска-Пазнанскай, Усх.-Памеранскай, Берлінскай аперацый. Пасля вайны на адказных пасадах у ВПС. Канд. у чл. ЦК КПСС у 1961—66. Дэп. ВС СССР у 1946—50, 1962—66. Аўтар кн. «Крылы перамогі» (1976).

**РУЖАНЫ,** гар. пасёлак у Пружанскім р-не, на р. Ружанка, за 45 км на ПнУ ад Пружан, за 38 км ад чыг. ст. Івацэвічы (на лініі Баранавічы — Брэст), на перакрыжаванні аўтадарог Пружаны — Слонім і Ваўкавыск — Косава. У 1940—62 цэнтр Ружанскага р-на. З 23.6.1941 у раёне Р. вялі баі воіны 22-й (ген.-маёр В. П. Пуганаў, з 24.6. 1941 палк. І. В. Конанаў) і 25-й (палк.

| 1 | 2 |
|---|---|
| ПАЛЕСКАЯ ВОБЛАСЦЬ *(Працавала 16 падпольных райкомаў ЛКСМБ)* | |
| Акцябрскі жн. 1941—26.6.1944 | Сакратары: М. М. Філітараў (да 18.10.1942), У. Г. Козыр (18.10.1942—1.10.1943), М. С. Марціновіч (з 18.10.1943); сакратары па прапагандзе: Марціновіч (1.11.1942—18.10.1943), А. В. Камароў (з 1.11.1943); члены: Козыр (да 1.10.1943), І. Л. Мельцэр (з 1.2.1942), П. М. Папруга (1.2.1942—1.1.1944), С. К. Малаковіч (з 25.5.1943). |
| Брагінскі 15.10.1943—24.11.1944 | Сакратар В. А. Рабёнак; члены: Н. М. Загаранская, М. А. Котчанка, П. С. Піліпенка, М. І. Попік. |
| Васілевіцкі 1.6—17.11.1943 | Сакратар У. Я. Сапончык; сакратар па прапагандзе М. А. Ясянкоў; члены: П. І. Давыдоўскі, М. І. Кучараў, А. Я. Прохараў, М. П. Транчак. |
| Глускі жн. 1941—28.6.1944 | Сакратары: Р. К. Тычына (да 14.9.1943), А. М. Макейчык (з 14.9.1943); сакратары па прапагандзе: Макейчык (з 21.3.1943), Б. В. Рынейскі (з 14.9.1943); члены: Рынейскі, В. П. Санчукоўскі (да 11.4.1944, загінуў), Макейчык (з сак. 1942), У. В. Сысой (з 21.3.1943), І. Ц. Крук (14.9.1943—11.4.1944, загінуў). |
| Даманавіцкі жн. 1942—18.11.1943 | Сакратар І. М. Крычаўцаў (у жн. 1941 пакінуты ЦК ЛКСМБ для работы ў тыле праціўніка як сакратар Даманавіцкага РК ЛКСМБ, да жн. 1942 працаваў у адзіночку, кіраваў камсам. работай у гэтым раёне); сакратары па прапагандзе: А. У. Броўка (1.8—14.9.1943), Дз. М. Раманішка (з 14.9.1943); члены: П. І. Брухацкая (да 15.8.1943), І. Д. Уладыкоўскі (да 20.9.1943, загінуў), Раманішка, М. Дз. Горбач, Броўка (з 5.5.1943). |
| Ельскі 1.2.1943—11.1.1944 | Сакратары: Г. Дз. Рабчынская (да 30.9.1943), М. П. Дзям'янаў (з 30.9.1943); сакратар па прапагандзе Дзям'янаў (да 30.9.1943); члены: І. С. Дзядок (да 25.11.1943, загінуў), М. А. Козінцаў, М. К. Мароз (да 11.12.1943, загінуў). |
| Жыткавіцкі 1.7.1943—6.7.1944 | Сакратар У. С. Мясніковіч; сакратар па прапагандзе А. А. Галіцкі; член А. Р. Бародзіч (да ліст. 1943, загінуў). |
| Калінкавіцкі 21.3—28.11.1943 | Сакратары: К. С. Гаруля (да 1.5.1943), І. І. Смарыга (з 1.5.1943); сакратар па прапагандзе Г. Я. Варажун (з 14.9.1943); члены: Смарыга, В. А. Вінакураў, Т. С. Карчова (з 16.7.1943), В. І. Табулін (з 14.9.1943). |
| Капаткевіцкі 8.10.1942—29.6.1944 | Сакратар Ф. А. Плавінскі; сакратар па прапагандзе С. І. Боеў; члены: І. І. Каліцька, Ф. Дз. Кудравец (да 14.9.1943), В. А. Пярфільеў (14.9.1943—23.4.1944), Л. Л. Федаровіч (з 14.9.1943). |
| Лельчыцкі жн.— вер. 1941; 19.4.1943—15.1.1944 | Сакратары: Я. Ш. Эрлах (да вер. 1941), Ф. Р. Новікаў (19.4—16.7.1943, загінуў), К. І. Буднецкі (з 16.7.1943); члены: І. Р. Ігнатоўскі, І. К. Астаповіч (19.4—24.7.1943, загінуў), Буднецкі, М. І. Янкавец (абодва з 19.4.1943), Ф. Р. Перавозчыкаў (з 1.5.1943). |
| Мазырскі 1.5.1943—8.1.1944 | Сакратары: К. С. Гаруля (да 1.10.1943), Дз. С. Каменскі (з 1.10.1943); сакратар па прапагандзе Р. І. Піваварaў (з 14.9.1943); члены: Піваварaў, У. Д. Лук'яновіч, Я. Р. Захаранка (да 5.9.1943, загінуў), І. М. Уласенка (да 4.8.1943), М. А. Навуменка (з 1.10.1943). |
| Нараўлянскі люты — 25.12.1943 | Сакратары: А. Ф. Цалко (да 8.10.1943), С. Л. Садоўскі (з 8.10.1943); сакратар па прапагандзе Л. А. Абрамовіч; член райкома У. М. Клейнас. |
| Парыцкі 1.3—18.11.1943 | Сакратары: Ш. З. Альшанскі, даваенны сакратар Парыцкага РК ЛКСМБ, са жн. 1941 да вер. 1941 працаваў у адзіночку, загінуў), І. Р. Пашко (да 14.9.1943), Б. А. Хароненка (да мая 1943), М. З. Русіновіч (з 14.9.1943); сакратар па прапагандзе З. Р. Дудко (з 1.8.1943); члены: Русіновіч, Хароненка, М. П. Лаўрыновіч, П. Р. Пашко. |
| Петрыкаўскі 1.1.1943—6.7.1944 | Сакратары: П. Г. Скачкоў (да 30.11.1943), В. У. Ключнік (з 30.11.1943); сакратар па прапагандзе А. П. Кебец (да 10.5.1943); члены: Ключнік, Кебец (да 5.2.1944), К. В. Данілаў. |

Н. М. Нікіфараў) танк. дывізій, 205-й матарызаванай дывізіі (палк. Ф. Ф. Кудзюраў), зводнага атрада з падраздзяленняў 6-й стралк. дывізіі (палк. Ф. А. Асташанка), знішчылі некалькі дзесяткаў варожых танкаў. 23.6.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія забілі ў Р. і раёне 5491 чал. У Р. і раёне дзейнічалі Ружанскі падп. антыфаш. к-т, падп. Пружанскі РК КП(б)Б (23.11.1943—11.7.1944) і Ружанскі РК ЛКСМБ (1.8.1943—15.7.1944), партыз. брыгады імя Панамарэнкі, імя Чапаева, «Савецкая Беларусь», асобныя партыз. атрады імя Шчорса, імя Будзённага (гл. адпаведныя артыкулы). Вызвалены 13.7.1944 воінамі 28-й арміі (ген.-лейт. А. А. Лучынскі), 9-га танк. корпуса (ген.-маёр танк. войск Б. С. Бахараў), конна-механіз. групы (ген.-лейт. І. А. Плііеў) 1-га Бел. фронту ў ходзе наступлення на баранавіцка-брэсцкім напрамку. З войскамі ўзаемадзейнічалі партызаны брыгады імя Панамарэнкі (камандзір М. У. Сенькін), якія перакрылі ўсе шляхі адыходу ням.-фаш. войск з раёна Слоніма ў раён г. п. Ружаны. У Р. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, на якой пастаўлены помнік, брацкая магіла сав. воінаў, на якой насыпаны курган; помнік і мемар. дошка І. П. *Урбановічу*. *Т. І. Паваліхіна.*

**РУКАПІСНЫЯ ЧАСО́ПІСЫ.** Выпускаліся парт., камсам. арг-цыямі і камандаваннем партыз. фарміраванняў (атрадаў і брыгад), радзей падп. райкомамі КП(б)Б у тыле ворага ў гады Вял. Айч. вайны. Выходзілі раз у 2 тыдні, штомесячна, раз у квартал або радзей, часам без пэўнага тэрміну па меры накаплення матэрыялу.

Тэксты друкаваліся на пішучых машынках або пісаліся ад рукі звычайна ў 1 экз. на самай рознай паперы (абгортачнай, шпалерах, чыстым баку карт, бланкаў, лістках з альбома і школьных сшыткаў і інш.) фарматамі ад 25×35 да 5×10 см (часцей фарматамі звычайнага сшытка), аб'ёмам ад 25 да 80 старонак. На тытульных лістах пазначаліся парадкавы нумар, дата выпуску, прыналежнасць (чый орган). Назва, загалоўкі, ілюстрацыі, карты, схемы выконваліся каляровымі алоўкамі або акварэльнай фарбай, тушшу, чарнілам, часам змяшчаліся фатаграфіі. Р. ч. зберагаліся ў штабе атрада, брыгады або ў членаў рэдкалегіі, не выходзілі за межы партыз. фарміраванняў. Паявіліся ў партыз. атрадах Магілёўскай і Мінскай абл. Першы Р. ч. «Народный мститель» выйшаў у лют. 1942 у 208-м партыз. атрадзе, у крас. 1942 у атрадзе «Беларусь», у 1942 выпускаліся ў 62-м, 120, 345-м партыз. атрадах Магілёўскай вобл., у атрадзе імя Суворава 2-й Мінскай брыгады і інш. У 1943—44 выдаваліся ў партыз. фарміраваннях Беластоцкай, Брэсцкай, Вілейскай, Віцебскай, Гомельскай і інш. абл.

У Р. ч. змяшчаліся тэксты заяў сав. ўрада, пісьмы, загады, звароты дзярж. і паліт. дзеячаў з каментарыя-

| 1 | 2 |
|---|---|
| Тураўскі<br>жн.— ліст. 1941;<br>1.6.1943—6.2.1944 | Сакратары: Э. П. Шубянок (да ліст. 1941, загінула), І. І. Ярмоленка (з 1.6.1943); сакратар па прапагандзе І. А. Прыкота (з 1.6.1943); члены: В. М. Цык, І. Х. Аксененка (з 1.6.1943), М. К. Нямшэвіч (1.6.1943—6.2.1944, загінуў), Ф. М. Торчык (з 1.6.1943), М. П. Дзянісаў, М. П. Радзько (абодва з 18.1.1944), К. Ф. Ваянец (студз. 1944). Прозвішчы членаў райкома ў жн.— ліст. 1941 не ўстаноўлены. |
| Хойніцкі<br>жн. 1941 — ліст. 1942;<br>31.7—25.11.1943 | Сакратары: І. С. Сярак (да ліст. 1942; пакінуты для работы ў тыле працўніка ЦК ЛКСМБ у жн. 1941; стварыў падп. райком і кіраваў ім, загінуў; прозвішчы членаў райкома, што з ім працавалі, і іх лёс невядомы), М. А. Жукаў (з 31.7.1943); сакратар па прапагандзе У. М. Лабада (з 31.7.1943); член райкома С. І. Доўбуш (з 31.7.1943). |
| **ПІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**<br>*(Працавала 11 падпольных райкомаў ЛКСМБ)* | |
| Ганцавіцкі<br>май 1943—7.7.1944 | Сакратар Я. П. Узянюк; сакратар па прапагандзе А. А. Замяціна; члены: Я. Л. Зеляніцкі, А. Н. Прыма, І. Р. Сергіеня (з ліст. 1943), У. П. Повараў (з 8.6.1944). |
| Давід-Гарадоцкі<br>11.8.1943—12.2.1944 | Сакратар М. Ц. Навалаеў; сакратар па прапагандзе Н. А. Бугрык; члены: Р. І. Панчанка, М. А. Карпаў (з 24.1.1944). |
| Драгічынскі<br>1.10.1943—30.3.1944 | Сакратар В. В. Ціхаміраў; сакратар па прапагандзе М. Р. Лаўрэнаў (да 1.1.1944); члены: Я. П. Пчолка (да 14.1.1944), А. Е. Кір'янаў, А. П. Шаўцоў. |
| Жабчыцкі<br>чэрв. 1943—30.3.1944 | Сакратар А. С. Еслікаў; сакратар па прапагандзе С. А. Прыступа (са жн. 1943); члены: І. Р. Курдакоў, А. В. Камінскі, І. М. Івашкевіч (са жн. 1943). |
| Іванаўскі<br>снеж. 1942—30.3.1944 | Сакратары: М. П. Барскі (да 20.8.1943, загінуў), І. Б. Зубчонак (з 20.8.1943); сакратары па прапагандзе: Зубчонак (1.3.—20.8.1943), А. І. Катусаў (з 20.8.1943); члены: Зубчонак, Катусаў, М. І. Дакудоўскі, К. І. Бандарэнка, П. К. Дайнека, І. П. Раманаў (да 28.11.1943, загінуў). |
| Лагішынскі<br>1.5.1943—10.7.1944 | Сакратары: М. Г. Піскун (да 1.8.1943),С. Т. Берасцень (з 1.6.1943); сакратар па прапагандзе А. А. Біч (з 1.6.1943); члены: С. С. Краўчук, І. І. Шкіль (абодва да 1.6.1943), І. С. Ганчарык, А. А. Самахвалаў (абодва з 1.6.1943). |
| Ленінскі<br>снеж. 1942—14.7.1944 | Сакратары: А. І. Кавалёў (да 30.7.1943), Дз. М. Круковіч (з 1.8.1943); сакратары па прапагандзе: Круковіч (май — 1.8.1943), І. А. Чэкан (з 1.8.1943); члены: Чэкан, С. А. Краўчук (да 9.9.1943, загінуў), Я. Я. Герасіменя, М. П. Лаўроў (абодва з 1.8.1943), С. І. Жураўлевіч (1.9 — ліст. 1943). |
| Лунінецкі<br>кастр. 1942—8.7.1944 | Сакратары: А. У. Буйніцкі (з 14 ліп. да жн. 1941 працаваў у адзіночку, загінуў), А. І. Кубасаў (з кастр. 1942); сакратар па прапагандзе М. М. Сулкоўскі (з 1.11.1943); члены: А. А. Світцоў, П. М. Тараўкоў, А. П. Дунец, Н. К. Фядзюшава (абое з 1.11.1943), А. А. Жук (1.11—6.12.1943, загінуў). |
| Пінскі<br>1.6.1943—14.7.1944 | Сакратары: М. Е. Ключыц, П. Ф. Фясюк; сакратар па прапагандзе Н. І. Гусакоў (з 1.10.1943); члены: Гусакоў, В. М. Буката (чэрв. 1943, загінуў), П. В. Гапановіч (да 1.5.1944). |
| Столінскі<br>9.8.1943—1.3.1944 | Сакратар М. І. Бялкоў; сакратар па прапагандзе У. А. Чумакоў; члены: П. Р. Шчалканаў, М. П. Шыш (з 1.11.1943). |
| Целяханскі<br>25.5.1943—10.7.1944 | Сакратар М. М. Палякоў; сакратар па прапагандзе У. І. Шырын; член А. А. Біч, адначасова сакратар па прапагандзе Лагішынскага падп. РК ЛКСМБ. |

*Р. М. Шавяла.*

мі аб іх значэнні для канкрэтнага партыз. фарміравання, расказвалася аб поспехах Чырв. Арміі, аб подзвігах працаўнікоў сав. тылу, аб руху Супраціўлення ў краінах Зах. Еўропы і інш. Асноўнае месца ў часопісах займалі матэрыялы пра баявую дзейнасць партызан, неабходнасць моцнай дысцыпліны і паліт. пільнасці, асвятляліся пытанні побыту, вольнага часу нар. мсціўцаў. У Р. ч. змяшчаліся карты-схемы баявых аперацый, біяграфіі і партрэты байцоў і камандзіраў, што вызначыліся, шматлікія апавяданні, нататкі, інтэрмедыі, вершы, песні, прыпеўкі, малюнкі, карыкатуры, падводзіліся вынікі баявой дзейнасці партыз. фарміравання за пэўны тэрмін і інш. Створаныя па слядах падзей самімі ўдзельнікамі гэтых падзей, Р. ч. маюць высокую ступень дакладнасці і з'яўляюцца каштоўнай гістарычнай крыніцай. Захавалася каля 250 экз. часопісаў. Самая вял. калекцыя іх (210 экз.) зберагаецца ў *Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.*

*Г. Дз. Кнацько.*

**РУМЯ́НЦАЎ** Рыгор Дзмітрыевіч (студз. 1888, в. Горка Крэсцецкага р-на Наўгародскай вобл.—27.8.1961), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1919. Скончыў Вышэйшыя каманднa-паліт. курсы пры Гал. паліт. упраўленні РСЧА (1942). З 1922 на сав. і парт. рабоце. З 1939 1-ы сакратар Любчанскага РК КП(б)Б. З крас. 1942 на Асобым бел. зборы. У кастр. 1943— маі 1944 камісар *партызанскай брыгады 20-й імя В. С. Грызадубавай,* у маі — ліп. 1944 камандзір *Баранавіцкага Паўднёвай зоны партызанскага злучэння,* адначасова ў вер.— ліст. 1943 сакратар *Быценскага падпольнага міжрайкома КП(б)Б,* у ліст. 1943— маі 1944 — падп. РК КП(б)Б. З 1944 на парт. і сав. рабоце ў Баранавіцкай і Маладзечанскай абл.

**«РУСА́ЛКА»** («Nixe»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партызан і мясцовага насельніцтва вакол воз. Чырвонае на мяжы Мінскай і Палескай абл. (Жыткавіцкі, Петрыкаўскі, Любанскі, Капаткевіцкі, Старобінскі р-ны) 24.2—1.3.1943, працяг карнай аперацыі *«Горнунг».*

Праводзілася па загаду рэйхсфюрэра СС Гімлера сіламі вышэйшых начальнікаў СС і паліцыі Расіі «Цэнтр» і «Поўдзень» (обергрупенфюрэры СС Бах-Зелеўскі і Прутцман). Да аперацыі было прыцягнута каля 20 ахоўных батальёнаў, авіяцыя, дапаможныя сілы паліцыі, падраздзяленні вермахта.

Карнікам не ўдалося дасягнуць поспеху ў барацьбе з партызанамі, але яны бязлітасна расправіліся з цывільным насельніцтвам. Толькі адзін 25-ы ахоўны батальён расстраляў 696 жанчын, старых і дзяцей, захапіў 300 галоў жывёлы, 50 ц збожжа. Больш за 1000 чал. гітлераўцы вывезлі на фаш. катаргу ў Германію

«непасрэдна ў распараджэнне гаўляйтэра Заўкеля», як таго патрабаваў загад Гімлера, спалілі вёскі, у т. л. Даманавічы (загубілі 267 чал.), Пісаравічы (220 чал.), Пузічы (770 чал.) Старобінскага, Людзвінаў (125 чал.) Петрыкаўскага р-наў і інш. На просьбу кіраўнікоў карнай аперацыі «Р.» перадаць у іх распараджэнне частку працаздольнага насельніцтва Гімлер заявіў, што «лепей за ўсё ачысціць ад насельніцтва ўсю Беларусь...».

*У. С. Пасэ.*

**РУСІЯ́НАЎ** Іван Мікітавіч (11.9.1900, в. Шчуплы Смаленскага р-на — 21.3. 1984), ген.-лейтэнант (1943). Герой Сав. Саюза (1978). Чл. КПСС з 1921. У Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз. вайны, вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. Скончыў Ваен. акадэмію Генштаба (1950). Пад яго камандаваннем 100-я стралк. дывізія ў чэрв. 1941 абараняла Мінск у раёне Астрашыцкага Гарадка. Удзельнічаў у баях пад Смаленскам і Ельняй, у Маскоўскай, Сталінградскай, Курскай бітвах, у вызваленні Украіны, Венгрыі, Аўстрыі. Да 1955 у Сав. Арміі.

**РЫБА́К** Ульян Аляксандравіч (н. 1.1. 1920, в. Яўсеевічы Глускага р-на), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1944. З 1941 на Ленінградскім, Варонежскім, Цэнтр., 1-м і 4-м Укр. франтах. Пам. камандзіра разведвальнага ўзвода старшына Р. вызначыўся ў снеж. 1944 у час разведкі сіл праціўніка ў Карпатах. З разведчыкамі ўзвода знішчыў 75 і ўзяў у палон 40 гітлераўцаў, здабыў каштоўныя звесткі пра ворага. За вайну захапіў 57 «языкоў», знішчыў 10 танкаў і больш за 200 гітлераўцаў. Да 1979 працаваў на заводзе. Яго імем названа вуліца ў г. п. Глуск.

**РЫБАКО́Ў** Аляксандр Кузьміч (н. 9.11. 1914, с. Благадатаўка Вялікаглушыцкага р-на Куйбышаўскай вобл.), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсам.-маладзёжнага падполля і партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1943. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1950). З 1933 на камсам. рабоце. З жн. 1941 у тыле ворага — палітрук партыз. атрада, упаўнаважаны ЦК ЛКСМБ па Баранавіцкай вобл., з крас. 1943 да 10.7.1944 сакратар *Баранавіцкага падпольнага абкома ЛКСМБ*. У 1944—75 на камсам. і парт. рабоце.

**РЫБАКО́Ў** Піліп Ягоравіч (19.10.1895, в. Рыбакі Гарадоцкага р-на — 26.5. 1966), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1939. З 1918 у Чырв. Арміі. З 1926 на гасп. рабоце, з 1936 старшыня Гарадоцкага райвыканкома. У партызанах з ліп. 1941: камандзір групы, атрада, у вер. 1942— ліст. 1943 камісар *партызанскай брыгады імя М. І. Кутузава*, адначасова ў чэрв. 1942— ліст. 1943 сакратар Гарадоцкага падп. РК КП(б)Б. Да 1957 старшыня Гарадоцкага, Талачынскага, Лепельскага райвыканкомаў. Дэп. ВС БССР у 1938—51.

**«РЫ́ГА»** («Riga»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партызан і мясцовага насельніцтва на Пн і ПнЗ ад в. Шацк Рудзенскага р-на 15—16.5.1942. Праводзілася сіламі 603-га ахоўнага палка і паліцэйскімі мясцовых гарнізонаў. Ва ўрочышчы Воўчы Востраў (за 6 км на Пн ад Шацка) групоўка карнікаў была сустрэта партыз. атрадам М. М. Нікіціна (гл. ў арт. *Партызанская брыгада М. М. Нікіціна*). Не вытрымаўшы шчыльнага і трапнага агню партызан, праціўнік, падабраўшы забітых і параненых, адступіў. Карная аперацыя правалілася з цяжкімі стратамі для гітлераўцаў.

**РЫЖО́Ў** Уладзімір Рыгоравіч (1.5. 1914, в. Майсееўшчына Барысаўскага р-на — 24.11.1974), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1939. З лют. 1942 на Паўн.-Зах., Бранскім, 1-м Укр. франтах. Удзельнік Маскоўскай, Курскай бітваў, вызвалення Украіны, Польшчы, баёў у Германіі. Камандзір мотастралк. батальёна маёр Р. вызначыўся ў зімовым наступленні 1945 і пры фарсіраванні р. Одэр. 13.1.1945



І. М. Русіянаў. У. А. Рыбак. У. Р. Рыжоў.




Рукапісныя часопісы з фондаў Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

перадавы атрад механізаванай брыгады на чале з Р. пачаў наступаць з Сандамірскага плацдарма, у ноч на 21.1.1945 фарсіраваў Одэр у раёне г. Кёбен, на плацдарме вёў баі з намнога большымі сіламі ворага. Пасля вайны да 1962 на парт. рабоце.

**РЫ́ЖЫ** Мікалай Кір'янавіч (6.12.1896, Віцебск — 22.10.1972), ген.-палк. артылерыі (1958). Чл. КПСС з 1943. У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз., сав.-фінл. 1939—40 войнаў. У Айч. вайну на Паўд., Забайкальскім франтах: нач. артылерыі корпуса, арміі, нач. артылерыі — нам. каманд. войскамі фронту. Удзельнік абароны Адэсы, Севастопаля, Керчанска-Феадасійскай дэсантнай аперацыі, разгрому імперыялістычнай Японіі. У 1945—65 каманд. артылерыяй ваен. акругі.

**РЫ́ЖЫКАЎ** Іосіф Іванавіч (2.9.1893, в. Рацава, Талачынскі р-н — 10.12.1979), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху на Беларусі, парт. і дзярж. дзеяч БССР. Чл. КПСС з 1917. З 1923 на гасп. і парт. рабоце.



Мемарыяльны комплекс Рыленкі. Фрагмент.

З 1939 1-ы сакратар Гродзенскага раённага к-та КП(б)Б, нарком прамысловасці будматэрыялаў БССР. У 1941 — вер. 1944 сакратар ЦК КП(б)Б, прадстаўнік ЦК КП(б)Б пры ЦК ВКП(б), узначальваў *Заходнюю аператыўную групу ЦК КП(б)Б*, упаўнаважаны *Цэнтральнага штаба партызанскага руху* на Сталінградскім фронце, з сак. 1943 нам. нач. *Беларускага штаба партызанскага руху*, прадстаўнік ЦШПР і чл. ваен. савета Калінінскага і 1-га Прыбалт. франтоў. З 1944 міністр, з 1953 1-ы нам. міністра жыллёва-грамадзянскага будаўніцтва БССР, гарадскога і сельскага будаўніцтва БССР, у 1958—59 нам. міністра будаўніцтва БССР. Канд. у чл. ЦК КПБ у 1932—34, 1954—60, чл. ЦК КПБ у 1929—30, 1934—38, 1952—54, чл. Рэвіз. камісіі КП(б)Б у 1949—52. Чл. ЦВК БССР у 1931—35. Дэп. ВС БССР у 1947—59.

**«РЫК»** («Brüll»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партызан і мясцовага насельніцтва на граніцы Брэсцкай і Валынскай абл. (Маларыцкі і Ратнаўскі р-ны) 21—25.5.1944. Баявыя дзеянні паміж часткай сіл *партызанскай брыгады «За Радзіму» імя А. К. Флегантава* і часцямі 2-га венгерскага кавалеўскага рэзервовага корпуса, 33-м пях. палком, 66-м танк. узводам і інш. падраздзяленнямі вермахта адбываліся ў прыфрантавой палосе на ПнУ ад г. п. Шацк (Ратнаўскі р-н) і вакол воз. Арэхаўскае. У раёне аперацыі гітлераўцы загубілі больш за 350 партызан і цывільных грамадзян, захапілі больш за 1600 чал. для выкарыстання на абарончых работах у прыфрантавой палосе і адпраўкі на катаргу ў Германію, вывезлі каля 3300 галоў буйной рагатай жывёлы, 780 коней. Працяўнік страціў 45 чал. забітымі і 119 паранеными. *У. С. Пасэ.*

**РЫЛЕ́НКІ,** мемарыяльны комплекс на ўшанаванне памяці воінаў *трыццаць першай арміі* 3-га Бел. фронту, якія загінулі ў баях за вызваленне Беларусі. Адкрыты 3.7.1973 (скульпт. М. Рыжанкоў, арх. М. Ткачук) каля в. Рыленкі Дубровенскага р-на на 467-м км аўтамагістралі Масква — Брэст, дзе знаходзяцца вайсковыя могілкі 10 тыс. салдат і афіцэраў. Складаецца са 170 пліт з прозвішчамі пахаваных і пліты-маналіту ў цэнтры могілак з надпісам «Подзвігі вашы неўміручыя». Перад плітой гарыць Вечны агонь.

Ад могілак да шашы вядзе алея, абапал якой 4 стэлы з выявамі ўдзельнікаў гераічнай барацьбы з ням.-фаш. захопнікамі — А. М. Васільева, Героя Сав. Саюза Ю. В. *Смірнова*, Г. А. *Нікандравай* і лётчыкаў эскадрыллі «Нармандыя — Нёман» С. Астахава і Бруна дэ Фальтана. Пры ўваходзе ў мемарыял брама з рэльефам (твары воінаў).

**«РЫСЬ»** («Luchs») № 33, кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць *партызанскай брыгады «Граза», партызанскай брыгады М. П. Гудкова*, некалькіх атрадаў брыгады К. С. Заслонава (гл. *Партызанская брыгада 1-я імя К. С. Заслонава), партызанскай брыгады Багушэўскай*, партыз. атрадаў «Сібірак», імя Чапаева (гл. ў арт. *Партызанская брыгада «За Савецкую Беларусь»*) і мясцовага насельніцтва ў Бешанковіцкім р-не і на ПнЗ Сенненскага р-на 7—17.9.1942.

Праводзілася 4 баявымі групамі, у склад якіх уваходзілі 2 пях. і 2 ахоўныя батальёны, арт. батарэі, 7 рот з ахоўных і паліцэйскіх батальёнаў, 4 эскадроны, узвод бронеаўтамабіляў. Камандаваў аперацыяй камандзір 201-й ахоўнай дывізіі ген.-лейт. Якабі. Карнікі наступалі па 5 збежных напрамках з Сянно, Чашнікаў, Бачэйкава, Бешанковіч і Астроўна. З-за адсутнасці боепрыпасаў партызаны не ўступалі ў адкрытыя баі, а манеўравалі ў лясных масівах вакол Сянно. Атрады «Сібірак» і імя Чапаева, якія дыслацыраваліся ў Чанаўскай дачы, фарсіравалі Зах. Дзвіну і выйшлі ў Гарадоцкі р-н.

Не дасягнуўшы пастаўленай мэты, карнікі загубілі 400 мясцовых жыхароў, 300 чал. вывезлі на фаш. катаргу ў Германію. Захапілі 1415 галоў жывёлы, спалілі некалькі вёсак, у т. л. Барок (загубілі 9 чал.), Зямковічы (29 чал.), Лугі (16 чал.), Утрылава (12 чал.), Шынкава (14 чал.) Сенненскага р-на і інш. Карту гл. на стар. 180. *В. С. Лазебнікаў, У. С. Пасэ.*

**РЭ́ВУТЫ,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1 км на Пн ад в. Чарнавокі Чапаеўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жылі 92 чал. У сак. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 45 жыхароў, вёску (19 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**«РЭГА́ТА»** («Regatta»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць *партызанскай брыгады «Звязда»*, 2 атрадаў *партызанскай брыгады «Чэкіст»* і мясцовага насельніцтва ў Горацкім і Дрыбінскім р-нах 4—7.10.1942.

Праводзілася 36-м ахоўным палком, сіламі старшага начальніка СС і паліцыі Расія — «Цэнтр», у т. л. батальёнам 14-га паліцэйскага палка, мінамётнымі, танк. ротамі, ротай сувязі, паліцэйскім батальёнам «Поўнач», асобым батальёнам СС Дырлевангера, спец. сапёрнымі падраздзяленнямі. Карнікі блакіравалі ўсе лясныя масівы і населеныя пункты на З ад Дрыбіна і на ПнЗ ад Горак. Партызанам і часткам мясцовых жыхароў удалося вырвацца з блакады.

Гітлераўцы загубілі шмат цывільных жыхароў, разрабавалі і спалілі вёскі, забралі жывёлу. У в. Добрая, Машкова, Ракотка былі пакінуты фаш. паліцэйскія падраздзяленні. Усюды былі расклеены аб'явы з загадам камандуючага аперацыяй «Р.» аб

пагалоўных расстрэлах жыхароў за сувязь з партызанамі.

*В. С. Лазебнікаў, У. С. Пасэ.*

**РЭ́ЖЫЦКА-ДЗВІНСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1944**, наступальная аперацыя 10—27 ліп. войск 2-га Прыбалт. фронту (ген. арміі А. І. Яроменка) з мэтай разграміць групоўку праціўніка ў раёне гарадоў Ідрыца, Себеж, Верхнядзвінск (Дрыса), авалодаць рубяжом г. Рэзекне (Рэжыца) — г. Даўгаўпілс (Дзвінск), у далейшым развіць наступленне на рыжскім напрамку і ва ўзаемадзеянні з войскамі 1-га Прыбалт. фронту адрэзаць прыбалт. групоўку праціўніка ад камунікацый, якія звязвалі яе з Германіяй. Удзельнічалі арміі 10-я гвардз. (ген.-лейт. М. І. Казакоў), 3-я ўдарная (ген.-лейт. В. А. Юшкевіч), 22-я (ген.-лейт. Г. П. Караткоў), 4-я ўдарная (ген.-лейт. П. Ф. Малышаў), 5-ы танк. корпус (ген.-маёр танк. войск М. Г. Сахно). Лінія фронту праходзіла на З ад г. Наваржэў, Пустошка, воз. Нешчарда, в. Боркавічы. Сав. войскам процістаялі часці 16-й ням.-фаш. арміі групы армій «Поўнач», якія апіраліся на глыбокаэшаланіраваную абарончую сістэму з 2 гал. і 3 дадатковымі ўмацаванымі лініямі. Выкарыстаўшы поспех 1-га Прыбалт. фронту, войскі 2-га Прыбалт. фронту 10 ліп. пачалі наступленне. Войскі правага крыла фронту — 10-я гвардз. і 3-я ўдарная арміі — наносілі ўдар у напрамку гарадоў Себеж, Рэзекне, прарвалі абарончы рубеж «Пантэра», за тыдзень фарсіравалі р. Вялікая, вызвалілі гарады Ідрыца, Апочка, Себеж і на стыку з 3-м Прыбалт. фронтам Пушкінскія Горы і сяло Міхайлаўскае. Войскі левага крыла фронту — 22-я (у яе складзе дзейнічаў 130-ы латышскі корпус, ген.-маёр Д. К. Бранткалн) і 4-я ўдарная арміі, 5-ы танк. корпус — наступалі ўздоўж Зах. Дзвіны на г. Даўгаўпілс, вызвалілі райцэнтры БССР — 12 ліп. в. Расоны і г. Верхнядзвінск, 17 ліп. г. п. Асвея, а таксама 14 ліп. в. Каханавічы, 18 ліп. чыг. ст. і в. Бігосава і інш. бел. населеныя пункты. 18 ліп. часці 130-га латышскага стралк. корпуса ўступілі на тэр. Латвіі ў раёне мяст. Шкяўне. Войскі фронту наступалі ў цяжкіх умовах лясістабалоцістай мясцовасці, пераадольваючы абарончыя рубяжы. 27 ліп. часці 10-й гвардз. і 3-й ударнай армій вызвалілі г. Рэзекне, у той жа дзень часці 4-й ударнай арміі ва ўзаемадзеянні з часцямі 6-й гвардз. арміі 1-га Прыбалт. фронту вызвалілі Даўгаўпілс. Да канца ліп. фронт прасунуўся ў глыбіню да 200 км. Былі створаны спрыяльныя ўмовы для пераходу ў наступленне войск 3-га Прыбалт. фронту.

*Ю. Я. Озалс.*

**«РЭ́ЙКАВАЯ ВАЙНА́»**, умоўная назва аперацый сав. партызан па адначасовым масавым разбурэнні чыг. камунікацый ворага з мэтай дэзарганізацыі ваен. перавозак. З'явілася натуральным працягам барацьбы партызан на варожых чыг. камунікацыях. Колькасны рост партыз. фарміраванняў, арганізацыйнае ўмацаванне іх радоў, вял. вопыт барацьбы далі магчымасць ЦШПР праводзіць буйныя каардынаваныя аперацыі па вываду са строю чыг. камунікацый ворага метадам адначасовага масіраванага ўдару па ўсёй акупіраванай гітлераўцамі сав. тэрыторыі. Удзельнічалі партызаны Беларусі, Украіны, Літвы, Латвіі, Ленінградскай, Калінінскай, Смаленскай, Арлоўскай абл. Аперацыі «Р. в.» планаваліся ЦШПР і звычайна праводзіліся напярэдадні ці ў час наступлення Чырв. Арміі на франтах. На Беларусі ў 1943—44 «Р. в.» праводзілася ў 3 этапы. 24.6.1943 ЦК КП(б)Б прыняў пастанову «Аб разбурэнні чыгуначных камунікацый ворага метадам «рэйкавай вайны». БШПР распрацаваў канкрэтныя мерапрыемствы па ажыццяўленні плана аперацый і вызначыў атрадам і брыгадам участкі чыгунак і колькасць рэек, якія трэба падарваць (усяго 110 700). У партыз. злучэнні накіраваны інструктары-мінёры, лётчыкі зрабілі 90 самалёта-вылетаў у тыл ворага, за перыяд з 16 ліп. да 5 жн. 1943 даставілі бел. партызанам 144 т грузаў, у т. л. 36,5 т толу, 522 міны МЗД-5, больш за 60 тыс. м бікфордава і 1,5 тыс. м дэтануючага шнура і шмат інш. сродкаў баявога забеспячэння. 1-ы э т а п пачаўся ў ноч на 3.8.1943, калі каля 74 тыс. партызан Беларусі нанеслі магутны ўдар па чыг. камунікацыях акупантаў у час контрнаступлення сав. войск пад Курскам, і працягваўся да сярэдзіны вер. 1943. На чыг. дарогах Беларусі за 2 ночы (3 і 4 жн.) узарвана 36 тыс. рэек, да канца жн. — сярэдзіны вер.— больш за 121 тыс. рэек, поўнасцю выведзены са строю чыгункі Бабруйск — Старушкі, Жлобін — Калінкавічы, Цімкавічы — Асіповічы; чыгунка Полацк — Маладзечна не дзейнічала 15 дзён, Мінск — Маладзечна — 10 дзён, на чыгунцы Магілёў — Крычаў, Полацк — Даўгаўпілс, Магілёў — Жлобін рух быў спынены на працягу ўсяго жніўня. Пушчаны пад адхон 833 варожыя эшалоны і 3 бронепаязды, узарвана 184 чыг. масты і 556 мастоў на шашэйных і грунтавых дарогах, знішчана 1429 аўтамашын і 392 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі, вял. колькасць жывой сілы, ваен. тэхнікі, боепрыпасаў і гаручага. Адначасова праводзіліся аперацыі па разгрому ням.-фаш. гарнізонаў (гл. *Докшыцка-Крулеўшчынская аперацыя 1943, Тошчыцкі бой 1943)* і дыверсіі на чыг. станцыях. У ходзе аперацый «Р. в.» партызаны ўзарвалі вадакачкі і пашкодзілі воданапорную сетку на станцыях Жлобін, Салтанаўка, Пухавічы і Вярэйцы (на чыгунцы Мінск — Гомель), Прыбар і Нахаў (на ўчастку Калінкавічы — Гомель), Дашкаўка (на ўчастку Магілёў — Жлобін), Каханава (на ўчастку Мінск — Орша) і інш. У выніку «Р. в.» ў жн. 1943 перавозкі для варожай групы ням. армій «Цэнтр» скараціліся на 40 %. «Р. в.» выклікала яшчэ большы размах усенар. партыз. барацьбы. Толькі ў жн. 1943 колькасць бел. партызан павялічылася на 17,6 тыс. чал. 2-і э т а п «Р. в.» пад умоўнай назвай



Партызаны разбураюць чыгуначнае палатно. Віцебская вобл.



Партызаны мініруюць чыгунку.



Варожы эшалон, скінуты пад адхон партызанамі. Дзятлаўскі р-н. 1943.

*«Канцэрт»* праводзіўся з 19 вер. да пачатку ліст. 1943— у 1-ы перыяд вызвалення Беларусі. Партызаны падарвалі больш за 90 тыс. рэек, 1041 эшалон, 72 чыг. масты, знішчылі больш за 400 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі сувязі і інш. У выніку 2 этапаў «Р. в.» вораг быў вымушаны падвоіць колькасць дывізій для аховы камунікацый; паводле звестак ням. Генштаба на 1.8.1943 для аховы вылучаны 7 пях. дывізій, на 1.10.1943— 14. 3-і этап пачаўся ў ноч на 20.6. 1944, быў узгоднены з дзеяннямі Чырв. Арміі, ахапіў усю акупіраваную тэр. Беларусі і працягваўся да поўнага вызвалення рэспублікі. 7.6. 1944 ЦК КП(б)Б зацвердзіў план аперацыі. Кожнаму атраду і брыгадзе быў намечаны пэўны ўчастак чыгункі і колькасць рэек, якія трэба знішчыць. Усяго партызаны рэспублікі павінны былі падарваць 48 100 рэек на важнейшых участках чыгункі. Самалётамі дастаўлена 52 т тола, 110 600 м бікфордава і дэтануючага шнура, 198 500 капсуляў-дэтанатараў, вял. колькасць зброі і боепрыпасаў. Падарвана 61 тыс. рэек (у першы дзень 40 775), знішчана 8 чыг. мастоў. Поўнасцю выведзены са строю найбольш важныя чыг. лініі, часткова паралізаваны перавозкі ворага амаль на ўсіх дарогах Беларусі. Упершыню ў гісторыі вайны партызанамі была праведзена аперацыя такога маштабу і з такімі вынікамі ў цесным аператыўна-тактычным узаемадзеянні з рэгулярнай арміяй. Скаардынаваныя ўдары партызан па чыг. камунікацыях ворага метадам «Р. в.» мелі аператыўна-стратэгічнае значэнне ў ходзе наступлення Чырв. Арміі.

*П. К. Панамарэнка, У. І. Лемяшонак.*

**РЭ́ПАЎШЧЫНА,** вёска на тэр. Браслаўскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на Пд ад в. Замошша Ахрэмавецкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 96 чал. У 1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 92 жыхароў, вёску (20 двароў) спалілі, маёмасць знішчылі. Пасля вайны не адрадзілася. На месцы вёскі насыпаны курган, пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**«РЭ́ХА НА ПАЛЕ́ССІ»,** кодавае найменне баявой аперацыі злучэння партыз. атрадаў Мінскай і Палескай абл. у ліст. 1942 (гл. *Пціцкая аперацыя 1942).*

**РЭ́ЧЫЦА,** горад, цэнтр Рэчыцкага р-на, на р. Дняпро. За 59 км на З ад Гомеля, чыг. станцыя на лініі Гомель — Калінкавічы, рачны порт, аўтадарогамі звязана з Гомелем, Калінкавічамі, Светлагорскам, Лоевам, Хойнікамі. 29,8 тыс. жыхароў у 1939. У ліп. 1941 былі створаны нар. апалчэнне, Рэчыцкі знішчальны батальён, партыз. атрад, якія праводзілі баявыя дзеянні на ўчастках абароны 63-га стралк. корпуса. 23.8.1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія за гады акупацыі знішчылі ў Р. і раёне 3,8 тыс. чал. У Р. і раёне дзейнічалі *Рэчыцкае партыйна-камсамольскае падполле,* Рэчыцкія падп. райкомы КП(б)Б (24.11.1942—17.11.1943) і ЛКСМБ (25.6.1942—17.11.1943), партыз. брыгады «Бальшавік», імя Панамарэнкі, імя Чапаева, Лоеўская «За Радзіму», «Мсцівец», Рэчыцкая імя Варашылава, асобны атрад імя Кірава, партыз. група «Дружба» (гл. адпаведныя артыкулы); выдавалася падп. газ. *«Зара камуны».* Да вер. 1943 партызаны кантралявалі 80 % тэр. раёна. Вызвалена 18.11.1943 воінамі 170-й (палк. С. Р. Цыплёнкаў), 194-й (палк. П. П. Апякін) стралк. дывізій 42-га стралк. корпуса, 2-й гвардз. гаўбічнай арт. брыгады (палк. А. І. Цялегін) 1-й гвардз. арт. дывізіі прарыву (ген.-маёр артылерыі А. М. Волчак), 4-й гвардз. (палк. П. М. Значэнка), 20-й (палк. П. С. Жаламскі) знішчальных процітанк. арт. брыгад, 35-й гвардз. мінамётнай брыгады (палк. М. І. Собалеў), 68-й асобнай пушачнай арт. брыгады (палк. З. Г. Траўкін) 48-й арміі, 162-й (палк. С. І. *Чарняк*), 37-й гвардз. (ген.-маёр І. І. Санкоўскі) стралк. дывізій 19-га стралк. корпуса, 15-й (падпалк. К. Г. Кажанаў), 16-й (палк. М. М. Філіпенка), 17-й (палк. Б. У. Шульгін) гвардз. танк. брыгад, 1-й гвардз. мотастралк. брыгады (палк. Г. М. Філіпаў) 1-га гвардз. танк. корпуса, 23-й танк. брыгады (палк. М. С. Дзямідаў) 9-га танк. корпуса, 3-й гвардз. зенітнай арт. дывізіі (ген.-маёр І. М. Сярэдзін) 65-й арміі і сіламі 2 авіядывізій 16 паветр. арміі бел. фронту ў ходзе *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943.* 22 вайсковым злучэнням і часцям нададзены ганаровыя найменні «Рэчыцкіх» (гл. *Рэчыцкія вайсковыя злучэнні і часці*). У Р. брацкія могілкі сав. воінаў і партызан, на якіх устаноўлены надмагіллі; брацкія могілкі сав. воінаў, партызан і падпольшчыкаў, на якіх пастаўлены помнік і запалены Вечны агонь; 3 брацкія магілы сав. воінаў і партызан, на іх помнікі, перад адным з іх запалены Вечны агонь; 4 магілы ахвяр фашызму, на іх абеліскі; мемар. дошкі сав. воінам і партызанам, у гонар воінаў-вызваліцеляў, двойчы Герою Сав. Саюза маршалу Сав. Саюза І. С. *Коневу,* Герою Сав. Саюза У. Р. *Масальскаму,* удзельніку Кастрычніцкай рэвалюцыі, грамадзянскай і Вял. Айч. войнаў А. Б. Міклашэвічу. Працуе *Рэчыцкі краязнаўчы музей.*

*В. В. Гетаў.*

**РЭ́ЧЫЦКА-БРАНДЭНБУ́РГСКАЯ ЗЕНІ́ТНАЯ АРТЫЛЕРЫ́ЙСКАЯ ДЫВІ́ЗІЯ** гвардзейская Чырванасцяжная, ордэнаў Суворава і Кутузава. Сфарміравана на Бранскім фронце ў ліст. 1942 як 16-я зенітная арт. дывізія рэзерву ВГК у складзе 4 зенітных арт. палкоў. Удзельнічала ў Курскай бітве, 29.9.1943 пераўтворана ў 3-ю гвардз. зенітную арт. дывізію рэзерву ВГК. У кастр. 1943 у час *бітвы за Дняпро 1943* дывізія прыкрывала войскі 65-й арміі Бел. фронту пры фарсіраванні імі Дняпра, захопе і расшырэнні плацдарма ў на яго правым беразе ў раёне г. п. Лоеў, у ліст. 1943 прыкрывала войскі арміі ў ходзе *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943.* Пры вызваленні войскамі 65-й і 48-й армій г. Рэчыца дывізія вызначылася ў баях і ёй было нададзена ганаровае найменне «Рэчыцкай» (18.11. 1943). Летам 1944 у час правядзення *Беларускай аперацыі 1944* злучэнне прыкрывала ад авіяцыі ворага войскі 65-й арміі 1-га Бел. фронту пры прарыве імі абароны і акружэнні бабруйскай групоўкі ворага (гл. *Бабруйская аперацыя 1944),* развіцці наступлення на баранавіцкім напрамку і праследаванні ням.-фаш. войск. Удзельнічала ў Варшаўска-Пазнанскай і Берлінскай аперацыях. Узнагароджана ордэнамі Чырв. Сцяга, Суворава II ступені (19.2.1945) і Кутузава II ступені (11.6.1945), атрымала ганаровае найменне «Брандэнбургскай» (5.4.1945). За час вайны (з 1943) часці дывізіі збілі больш за 500 самалётаў ворага. Каля 700 яе воінаў узнаг. ордэнамі і медалямі СССР.

Камандзір — ген.-маёр артылерыі І. М. Сярэдзін (з 7.8.1943).

*М. І. Камінскі.*

**РЭ́ЧЫЦКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з жн. 1941 да ліст. 1943 у г. Рэчыца пад кіраўніцтвам *Гомельскага падпольнага абкома КП(б)Б, Гомельскага падпольнага абкома ЛКСМБ,* з ліст. 1942— Рэчыцкага падп. РК КП(б)Б; мела цесныя кантакты з атрадам, потым *партызанскай брыгадай Рэчыцкай імя К. Я. Варашылава.* Аб'ядноўвала больш за 40 падпольшчыкаў, у т. л. 7 камуністаў і 19 камсамольцаў. Складалася з 5 груп, якія ўзначальвалі: П. М. Маркаль — камсам.-маладзёжную групу, І. Дз. Усхопаў — групу ў друкарні, Д. В. Мыткін — у канторы «Заготжывёла», М. І. Жыленка — у гар. управе, Г. С. Хумар'ян — у драмтэатры. У камсам.-маладзёжную групу, якая дзейнічала на чыг. станцыі, уваходзілі сёстры Валянціна, Людміла і Тамара Блескіны, В. Н. Кніга, А. І. Катлабай, М. У. Абуховіч. Патрыёты, што дзейнічалі ў друкарні, канторы «Заготжывёла», гар. управе, перадавалі партызанам харчы, бланкі дакументаў, паперу. У друкарні падпольшчыкі друкавалі лістоўкі. У маі — ліст. 1942 па заданні партыз. атрада імя К. Я. Варашылава надрукавана больш за 3 тыс. лістовак са зводкамі Саўінфармбюро, перадавымі артыкуламі газет «Правда», «Красная звезда» і інш. Гэту работу выконвалі друкар камуніст М. П. Агурцоў, наборшчыца камсамолка С. А. Мікіцюк,

вучань матарыста камсамолец У. Л. Васілеўскі і інш. Па фіктыўных нарадах падпольшчык канторы «Заготжывёла» камуніст Ц. С. Броўка, Е. Н. Казанцава і інш. атрымлівалі мясныя і малочныя прадукты, а шафёры падпольшчыкі Дз. Е. Помаз і А. С. Озераў перапраўлялі іх у лес. Падпольшчыкі канторы здабылі 4 тыс. руб., на якія былі закуплены медыкаменты і перавязачныя матэрыялы для партызан.

На канспіратыўных кватэрах, што ўтрымлівалі Н. М. Каранкевіч і Т. А. Пацёмкіна, падпольшчыкі сустракаліся з партыз. сувязнымі, якія прыходзілі з лесу, перадавалі ім звесткі разведкі, атрымлівалі новыя заданні. Сувязь паміж партызанамі і падпольшчыкамі ў асн. падтрымлівалася праз М. П. Кошалева. У жн.— снеж. 1942 падпольшчыкі В. І. Блескіна, Катлабай, Кніга неадноймы сустракаліся з сакратарамі Гомельскага падп. абкома ЛКСМБ А. Дз. *Рудаком* і Рэчыцкага падп. РК ЛКСМБ У. Р. Хамянком. Яны інфармавалі кіраўніцтва падп. камсам. органаў, а таксама кіраўнікоў укр. партыз. злучэння С. А. *Каўпака* і С. В. Руднева, якія знаходзіліся ў гэты час у Рэчыцкім р-не, аб становішчы спраў у горадзе, атрымлівалі ад іх інструкцыі і новыя заданні. Група на чале з Хумар'янам збірала разведвальную інфармацыю, рыхтавала ўзрыў у тэатры, ажыццявіць які не ўдалося. У маі 1942 яе кіраўнік пайшоў у атрад імя Варашылава, адкуль працягваў накіроўваць дзейнасць падпольшчыкаў. Фашыстам удалося часткова раскрыць дзейнасць падп. груп у гар. управе, друкарні, канторы «Заготжывёла», камсам. маладзёжнай.

У барацьбе супраць ням.-фаш. акупантаў загінулі М. У. Абуховіч, М. П. Агурцоў, Ц. С. Броўка, М. В. Васілеўская, У. Л. Васілеўскі, К. С. Герасімовіч, М. І. Жыленка, А. В. Зубрыцкі, Г. А. Малашчыцкі, С. А. Мікіцюк, Д. В. Мыткін, А. С. Озераў, Дз. Е. Помаз, Г. М. Сумак, Я. Е. Шылёнак, І. Дз. Усхопаў. У Рэчыцы на брацкай магіле падпольшчыкаў у 1968 устаноўлена надмагілле.

*М. Ф. Шумейка.*

**РЭ́ЧЫЦКАЕ РАЁННАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з жн. 1941 да ліст. 1943 у Рэчыцкім р-не, з ліст. 1942 пад кіраўніцтвам Рэчыцкага падп. РК КП(б)Б. Аб'ядноўвала 8 груп, 62 падпольшчыкаў, у т. л. 12 камуністаў, 26 камсамольцаў. Групы былі створаны ў в. Свірыдавічы (кіраўнікі А. В. Карбаценка, В. А. Нямкевіч), 2 групы ў в. Холмеч і Завужаль (Ф. П. Севераў, М. С. Вайтовіч, М. Ф. Яўланчык), у в. Андрэеўка і Пасека (Рыгор Іванавіч Васілец, Рыгор Ісакавіч Васілец), в. Ветхінь (М. Л. Саламаха), в. Ровенская Слабада (А. Ц. Дворнік і М. І. Звяртоўскі), в. Горнаўка (Ю. А. Раціборская, В. А. Раціборскі), в. Мілаград (З. А. Грабянчук). У ліку арганізатараў і першых удзельнікаў падполля былі работнікі Рэчыцкіх райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, старшыні сельсаветаў і калгасаў, калгаснікі, настаўнікі, навучэнцы, б. ваеннаслужачыя. Зімой 1941—42 падпольшчыкі ўсталявілі сувязь з М. Ф. Турчынскім — кіраўніком групы, пакінутай па заданні ЦК КП(б)Б у Рэчыцкім р-не, дапамагалі групе зброяй, боепрыпасамі, харчамі. Падтрымлівалі пастаянныя кантакты са створаным у крас. 1942 на базе групы Турчынскага партыз. атрадам імя Варашылава (гл. ў арт. *Партызанская брыгада Рэчыцкая імя К. Я. Варашылава)* і атрадам «За Радзіму» (гл. ў арт. *Партызанская брыгада Лоеўская «За Радзіму»).* Падпольшчыкі ажыццяўлялі дыверсіі, вялі агітацыйную работу, дапамагалі партызанам.

Патрыёты в. Антонаўка і Пасека двойчы спальвалі мост цераз р. Гупа. Падпольшчыкі в. Холмеч і Завужаль перадавалі партызанам атрадаў імя Варашылава і «За Радзіму» звесткі аб варожым гарнізоне ў Холмечы, у вер. 1942 партызаны атрада імя Варашылава разграмілі гэты гарнізон. Падпольшчыкі У. І. Саматкан і М. Ф. Яўланчык з лета 1942 забіралі частку мукі з млына ў в. Холмеч і адвозілі яе партызанам. Моладзь в. Ветхінь збірала зброю, боепрыпасы, перадавала іх у атрад імя Варашылава. У выніку агітацыйнай і растлумачальнай работы ніводзін жыхар гэтай вёскі не паддаўся на правакацыйную прапаганду фашыстаў і не паехаў добраахвотна ў Германію. Аналагічную работу вялі юныя патрыёты в. Гарноўка на чале з даваенным інструктарам Рэчыцкага РК ЛКСМБ Раціборскай. У яе доме хаваўся камандзір Чырв. Арміі М. П. Аніпка, які трапіў у акружэнне, а потым стаў камандзірам *партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава.*

Дзейнасць падпольшчыкаў спрыяла хуткаму росту партыз. сіл раёна, летам 1942— вясной 1943 у атрад імя Варашылава пайшло больш за 30 падпольшчыкаў. Патрыёты, якія засталіся, працягвалі працаваць сувязнымі, выконвалі даручэнні падп. парт. і камсам. органаў, партыз. атрадаў.

У барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў загінулі Е. П. Глушак, І. М. Гуз, Л. З. Кулік, Я. Дз. Манькоў, Т. М. Савёнак, Ф. А. Раціборская, А. С. Раціборскі, М. Л. Саламаха, П. П. Худароба, К. П. Чарнецкі.

*М. Ф. Шумейка.*

**РЭ́ЧЫЦКА-РА́ДАМСКАЯ АСО́БНАЯ ЗНІШЧА́ЛЬНАЯ ПРОЦІТА́НКАВАЯ АРТЫЛЕРЫ́ЙСКАЯ БРЫГА́ДА** гвардзейская двойчы Чырванасцяжная, ордэнаў Суворава, Кутузава і Багдана Хмяльніцкага. Сфарміравана ў крас. 1943 у Арлоўскай вобл. як 13-я асобная знішчальная процітанкавая арт. брыгада рэзерву ВГК у складзе 3 палкоў і інш. часцей. Удзельнічала ў *Курскай бітве 1943.* 10.8.1943 пераўтворана ў 4-ю гвардз. асобную знішчальную процітанкавую арт. брыгаду рэзерву ВГК. Удзельнічала ў Арлоўскай аперацыі, *Чарнігаўска-Прыпяцкай аперацыі 1943* і вызваленні Левабярэжнай Украіны. У час *бітвы за Днепр 1943* фарсіравала Днепр на Пд ад Камарына і ў складзе 13-й арміі вяла жорсткія баі з ворагам у міжрэччы Дняпра і Прыпяці. У ходзе *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943* брыгада дзейнічала ў складзе войск 48-й арміі, вызначылася ў баях пры вызваленні г. Рэчыца. 18.11.1943 удастоена ганаровага найменя «Рэчыцкай». У *Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944* брыгада з войскамі 69-й арміі ўдзельнічала ў баях у час прарыву абароны ворага на З ад Ковеля і фарсіраванні Віслы на З ад Любліна (9.8.1944 узнаг. ордэнам Чырв. Сцяга). За ўдзел у Варшаўска-Пазнанскай аперацыі ўзнаг. ордэнам Суворава II ступені і ўдастоена ганаровага найменя «Радамскай» (19.2. 1945), за адбіццё танк. атак ворага пад Лоддзю і Тамашовам узнаг. ордэнам Кутузава II ступені (19.2.1945). Удзельнічала ва Усх.-Памеранскай аперацыі, 26.4.1945 узнаг. ордэнам Багдана Хмяльніцкага II ст. Вызначылася ў Берлінскай аперацыі (11.6. 1945 узнаг. ордэнам Чырв. Сцяга). За час вайны каля 7,5 тыс. воінаў брыгады ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР, 9 з іх удастоены звання Героя Сав. Саюза.

Камандзіры: палк. М. П. Сазонаў (крас.— ліп. 1943), падпалк., з жн. 1943 палк. П. М. Значонка (ліп. 1943— да канца вайны).

*М. І. Камінскі.*

**РЭ́ЧЫЦКАЯ СТРАЛКО́ВАЯ ДЫВІ́ЗІЯ** гвардзейская двойчы Чырванасцяжная, ордэнаў Суворава, Кутузава і Багдана Хмяльніцкага. Сфарміравана ў Маскоўскай вобл. ў жн. 1942 як 37-я гвардз. стралк. дывізія ў складзе 3 стралк., 1 арт. палкоў і інш. часцей. Удзельнічала ў Сталінградскай бітве (28.4.1943 узнаг. ордэнам Чырв. Сцяга), у Арлоўскай аперацыі і вызваленні Левабярэжнай Украіны, фарсіраванні рэк Дзясна і Сож, вяла баі па ўтрыманні плацдармаў на р. Сож. У кастр. 1943 удзельнічала ў *бітве за Днепр 1943,* фарсіравала яго на ПнЗ ад г. п. Лоева. У складзе Бел. фронту ўдзельнічала ў *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943,* дзе вяла наступальныя баі ў цяжкіх умовах лясіста-балоцістай мясцовасці. Пераадолеўшы ўпартае супраціўленне ворага, яна ва ўзаемадзеянні з інш. злучэннямі гал. ударнай групоўкі фронту выйшла ў глыбокі тыл варожых войск, якія абараняліся ў раёне Гомеля, і адыгралі важную ролю ў завяршэнні іх разгрому. За актыўныя баявыя дзеянні, якія садзейнічалі вызваленню Рэчыцы, дывізіі нададзена ганаровае найменне «Рэчыцкай» (18.11.1943). Удзельнічала ў *Калінкавіцка-Мазырскай аперацыі 1944,* дзе вызначылася ў баях за вызваленне Мазыра і Калінкавіч (15.1.1944 узнаг. ордэнам Суворава II ступені), у *Беларускай аперацыі 1944,* у ходзе якой ва ўзаемадзеянні з інш. злучэннямі 65-й арміі 1-га Бел. фронту прарвала абарону ворага на бабруйскім напрамку (гл. *Бабруйская аперацыя 1944)* і, развіваючы імклівае наступленне, удзельнічала ў вызваленні

гарадоў Асіповічы, Баранавічы і Слонім. За прарыў абароны праціўніка на Бабруйскім напрамку ўзнаг. ордэнам Чырв. Сцяга (2.7.1944), вызначылася ў баях пры вызваленні Баранавіч, за што ўзнаг. ордэнам Кутузава II ступені (27.7.1944). У 1944—45 удзельнічала ў вызваленні Польшчы, ва Усх.-Прускай, Усх.-Памеранскай і Берлінскай аперацыях. Узнагароджана ордэнам Багдана Хмяльніцкага II ступені (4.6.1945). За перыяд вайны больш за 6 тыс. воінаў дывізіі ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР, 15 з іх удастоены звання Героя Сав. Саюза.

П. Дз. Рэшатаў. Я. Я. Савіцкі.



Камандзіры: ген.-маёр В. Р. *Жолудзеў* (жн. 1942— крас. 1943), палк. Ц. Н. Вішнеўскі (крас.— май 1943), палк., з вер. 1943 ген.-маёр Я. Р. Ушакоў (чэрв.— кастр. 1943 і снеж. 1943— крас. 1944), палк. І. К. Брушка (ліст. 1943), ген.-маёр І. І. Санкоўскі (ліст. 1943), палк., з ліст. 1944 ген.-маёр В. Л. Марозаў (крас.— ліст. 1944), ген.-маёр С. У. Рахімаў (ліст. 1944— сак. 1945), ген.-маёр К. Е. Грэбенік (сак. 1945— да канца вайны).

*М. І. Камінскі.*

**РЭ́ЧЫЦКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты 5.11.1954. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, мае 548 экспанатаў, у т. л. 206 асноўнага фонду, пл. 45 м². Прадстаўлены матэрыялы пра пачатковы перыяд вайны, у т. л. фатаграфіі байцоў знішчальнага батальёна і нар. апалчэння, пра ўзнікненне і разгортванне падполля і партыз. руху ў раёне: фатаграфіі, дакументы, асабістыя рэчы членаў Рэчыцкіх падп. райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ В. П. *Палавінкі*, А. Я. Міхайлава, У. Р. Хамянка, М. С. Храмчанкі і інш., кіраўнікоў і актыўных удзельнікаў *Рэчыцкага партыйна-камсамольскага падполля*, падп. газ. *«Зара камуны»*, друкарскі станок, фатаграфія «Выпуск чарговага нумара газ. «Зара камуны», друкарская машынка атрада імя Варашылава, радыёпрыёмнік Рэчыцкай брыгады «Мсцівец», медыцынскі інструмент партыз. ўрача П. Шатровіч. Экспануюцца фатаграфіі, асабістыя рэчы партызан брыгад імя Варашылава, імя Панамарэнкі, «Мсцівец», партыз. групы «Дружба», у т. л. камандзіраў брыгад М. П. Аніпкі, І. Р. Барунова, камандзіра атрада М. Ф. Турчынскага і інш. Пра злачынствы ням.-фаш. захопнікаў расказваюць фатаграфіі і асабістыя рэчы ахвяр фашызму, у т. л. дзяцей. Экспануюцца матэрыялы пра вызваленне горада і раёна ў ходзе *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943*: агучаная дыярама «Фарсіраванне р. Дняпро на поўдзень ад Рэчыцы восенню 1943 года», фатаграфіі, дакументы, асабістыя рэчы воінаў-вызваліцеляў, у т. л. ген. арміі П. І. *Батава*, ген.-лейт. П. Л. Раманенкі, землякоў — удзельнікаў Вял. Айч. вайны, матэрыялы пра вайсковыя часці і злучэнні, якія атрымалі ганаровыя найменні «Рэчыцкіх».

*А. І. Шафір.*

**РЭ́ЧЫЦКІЯ ВАЙСКО́ВЫЯ ЗЛУЧЭ́ННІ І ЧА́СЦІ.** За вызваленне г. Рэчыца (17.11. 1943) у ходзе *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943* найменні «Рэчыцкіх» паводле загада ВГК ад 18.11.1943 атрымалі 22 злучэнні і часці 48-й, 65-й і 16-й паветр. армій Бел. фронту.

Злучэнні і часці, якім нададзены ганаровыя найменні «Рэчыцкіх»: 37-я гвардз. Чырванасцяжная (ген.-маёр І. І. Санкоўскі), 170-я (палк. С. Р. Цыплёнкаў) і 194-я (палк. П. П. Апякін) стралк. дывізіі, 3-я гвардз. зенітная арт. дывізія (ген.-маёр І. М. Сярэдзін), 2-я Чарнігаўская гвардз. штурмавая (палк. Г. І. Камароў), 241-я бамбардзіровачная (палк. І. Р. Курыленка) і 271-я Сталінградская начная бамбардзіровачная (палк. М. Х. Барысенка) авіяц. дывізіі, 1-я гвардз. мотастралк. брыгада (палк. Г. М. Філіпаў), 15-я (падпалк. К. Г. Кажанаў) і 16-я (палк. М. М. Філіпенка) гвардз. танк. брыгады, 23-я Глухаўская танк. брыгада (палк. М. С. Дзямідаў), 2-я гвардз. гаўбічная арт. брыгада (палк. А. І. Цылегін), 4-я гвардз. (палк. Б. М. Значэнка) і 20-я Сталінградская (палк. П. С. Жэламскі) знішчальныя процітанк. арт. брыгады, 68-я Сеўская асобная пушачная арт. брыгада (палк. З. Г. Траўкін), 35-я гвардз. мінамётная брыгада (палк. М. І. Собалеў), 220-ы гвардз. (маёр П. М. Бублікаў) і 543-і (палк. В. М. Ганчарук) знішчальныя процітанк. арт. палкі, 1168-ы пушачны арт. полк (падпалк. А. І. Агаркоў), 218-ы Дняпроўскі (падпалк. А. А. Новікаў), 478-ы (палк. А. М. Астапенка) і 479-ы (падпалк. Ф. І. Тарасаў) мінамётныя палкі. Войскам, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Рэчыцы, загадам ВГК ад 18.11.1943 абвешчана падзяка, у Маскве дадзены салют 12 арт. залпамі з 124 гармат.

**РЭ́ШАТАЎ** Павел Дзмітрыевіч (26.8. 1911, в. Бегунова Калінінскага р-на Калінінскай вобл.— 27.6.1944), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1944. На фронце з 1942. Камандзір кулямётнага аддзялення сяржант Р. вызначыўся пры ліквідацыі *віцебскага «катла»*. 27.6. 1944 у баі каля в. Абухава Бешанковіцкага р-на, застаўшыся з кулямётнага разліку адзін, знішчыў 140 гітлераўцаў, апошняй гранатай падарваў сябе і групу ворагаў. Пахаваны ў в. Смародзіна Лёзненскага р-на.



**«САВА́»** («Eule») № 38, кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партызан і мясцовага насельніцтва ў Талачынскім р-не 3—7.9.1942.

Праводзілася сіламі 203-й ахоўнай дывізіі пры падтрымцы танк. і зенітных арт. падраздзяленняў. З'яўлялася працягам карнай аперацыі *«Грыф»*, часткай буйнога аператыўнага плана камандавання групы армій «Цэнтр» па «ачыстцы» і «ўціхамірванню» ўздоўж чыгунак Барысаў — Смаленск, Віцебск — Смаленск, Віцебск — Орша. Галоўны ўдар гітлераўцаў быў накіраваны на Рацаўскія лясы (раён в. Рацава, за 10—12 км на Пд ад г. п. Коханава), дзе дыслацыравалася *партызанская брыгада «Чэкіст»*. 3 батальёны карнікаў пры падтрымцы танкаў і бронемашын 3 вер. пачалі наступленне з боку Шклова і Круглага ў паўн. напрамку, імкнучыся прыціснуць партызан да лініі адсячэння на ўчастку чыгункі Талачын — Коханава. Да выходу дня гітлераўцы занялі в. Уланава і Дудаковічы (Шклоўскі р-н). Бязлітасны бой разгарэўся каля в. Старaселле.

Партызаны змагаліся да апошняга патрона, аднак з-за адсутнасці боепрыпасаў вымушаны былі адысці на Пн у раён в. Альхоўка. Тут 4 вер. камандаванне брыгады прыняло рашэнне 2 самастойнымі групамі прарвацца праз шашу і чыгунку Барысаў — Орша. 4 партыз. атрады пад камандаваннем Г. А. *Кірпіча* з боем прарвалі загараджальныя заслоны гітлераўцаў, перайшлі шашу і чыгунку ў раёне в. Падбярэззе і хутка выйшлі да в. Стайск Лепельскага р-на. Другой групе атрадаў пад камандаваннем А. С. Нікітчанкі прарвацца праз варожыя заслоны не ўдалося, і яна пасля скрытнага абходнага манеўра выйшла ў Круглянскі р-н, дзе злучылася з *партызанскай брыгадай 8-й Круглянскай*. 7 вер. аперацыя «С.» закончылася для гітлераўцаў правалам. Асноўныя сілы партызан выйшлі з блакады і працягвалі наносіць адчувальныя ўдары па важнейшых камунікацыях праціўніка.

*У. С. Пасэ.*

**САВЕ́ЛАЎ** Іван Сяргеевіч (26.11.1905, с. Буранная Соль-Ілецкага р-на Арэнбургскай вобл.— 28.2.1956), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1927. У партызанах з вер. 1941: радавы, з мая 1942 камісар атрада, у снеж. 1942— вер. 1943 камісар *партызанскай брыгады 300-й імя К. Я. Варашылава*, у вер. 1943— крас. 1944 — *партызанскай брыгады 100-й імя С. М. Кірава*, потым камандзір атрада імя А. С. Шашуры. Пасля вайны ў СМ Казахскай ССР.

**«САВЕ́ЦКАЯ БЕЛАРУ́СЬ»,** газета, орган ЦК КП(б)Б, СНК і Прэзідыума ВС БССР, выдавалася з кастр. 1941 да вызвалення Мінска ад ням.-фаш. захопнікаў [да 10.4.1943 орган ЦК і Мінскага АК КП(б)Б]. Друкавалася ў Арле, потым у Казані, Маскве, Навабеліцы на бел., а з 10.4.1943 і на рус. мовах. Была разлічана на насельніцтва часова акупіраванай Беларусі. Заклікала сав. людзей да барацьбы з ням.-фаш. захопнікамі, пісала аб гераізме сав. людзей на франтах Вял. Айчыннай вайны, партыз. руху на Беларусі, змяшчала зводкі аб баявых дзеяннях на франтах, замежную інфармацыю.

**«САВЕ́ЦКАЯ БЕЛАРУ́СЬ»,** радыёстанцыя, якая ў Вял. Айч. вайну з 1.1.1942 да 20.9.1944 вяла перадачы з Масквы на бел. і рус. мовах для насельніцтва Беларусі, акупіраванай ням.-фаш. захопнікамі. Рэдакцыя была створана з бел. журналістаў і пісьменнікаў. Адказныя рэдактары: С. К. *Майхровіч* (да чэрв. 1943) і В. П. Палескі (з ліп. 1943). Інфармавала аб становішчы ў краіне, на франтах, расказвала аб перамогах Чырв. Арміі, барацьбе партызан і падпольшчыкаў, выкрывала злачынствы акупантаў, фаш. прапаганду, падрыўную дзейнасць бел. бурж. нацыяналістаў, перадавала матэрыялы для падп. друку. Наладжвала трансляцыю радыёмітынгаў, канцэртаў бел. музыкі, радыёпераклічкі, перадачы па пісьмах радыёслухачоў. Перад яе мікрафонам выступалі парт. і дзярж. дзеячы БССР, пісьменнікі Я. Купала, Я. Колас, К. Чорны, А. Куляшоў, П. Панчанка, М. Машара, А. Бялевіч і інш.

**«САВЕ́ЦКІ ПАТРЫЁТ»,** газета, орган Ляхавіцкага падп. РК КП(б)Б. Вядома 35 нумароў за 24.10.1943—3.7.1944 на бел. мове (асобныя нумары на бел. і рус.). Рэдактары: Я. Л. Шэвелеў (да 18.12.1943), П. С. Вярбіцкі (да 17.5.1944), В. І. Бурло. З 1962 выходзіць пад назвай «Будаўнік камунізму», орган Ляхавіцкага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**САВІ́ЦКАЯ** Ядвіга Міхайлаўна (н. 3.9. 1908, Мінск), бел. сав. журналіст, удзельніца *Мінскага партыйнага падполля.* Чл. КПСС з 1932. Скончыла Камуніст. ін-т журналістыкі імя Кірава ў Мінску (1937). У 1937—41 заг. аддзела газ. «Огка» («Ворыва»), «Звязда», «Sztandar Wolnósci» («Сцяг свабоды»). У вер. 1941 — сак. 1942 кіраўнік падп. парт.-камсам. групы ў Мінску, рэдактар падп. газ. *«Звязда»* (1942, № 2—4). З кастр. 1942 пры штабе *партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава* Мінскай вобл., потым — *Слуцкай зоны партызанскага злучэння,* адказны сакратар падп. газ. *«Патриот Родины».* З ліст. 1943 нам. рэдактара падп. газ. *«Белостокская правда».* У 1944—60 на парт. і журналісцкай рабоце.

**САВІ́ЦКІ** Андрэй Пятровіч (6.10.1911, в. Хорлін Жыткавіцкага р-на — 1948), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Пінскай вобл. Чл. КПСС з 1943. З 1934 на гасп. рабоце, старшыня калгаса ў Жыткавіцкім р-не. У партызанах з ліп. 1941: радавы, камандзір групы, атрада, у ліп. 1943 — маі 1944 *партызанскай брыгады імя С. М. Кірава.* З 1944 на гасп. рабоце. Яго імем названа вуліца ў г. Лунінец.

**САВІ́ЦКІ** Яўген Якаўлевіч (н. 24.12. 1910, Новарасійск), маршал авіяцыі (1961). Двойчы Герой Сав. Саюза (1944, 1945). Заслужаны ваен. лётчык СССР (1965). Чл. КПСС з 1931. Скончыў Ваен. акадэмію Генштаба (1955). У Сав. Арміі з 1929. З 1942 на Варонежскім, Паўд.-Зах., Сталінградскім. Паўн.-Каўказскім, Паўд., 4-м Укр., 1-м і 3-м Бел. франтах: камандзір знішчальнай авіядывізіі, камандуючы авіягрупамі, камандзір знішчальнага авіякорпуса, які ўдзельнічаў у баях за вызваленне Кубані, Данбаса, Украіны, Крыма, Беларусі, Прыбалтыкі, Польшчы, штурме Берліна. Зрабіў 216 баявых вылетаў, правёў 81 паветр. бой, збіў 22 і ў групе 2 самалёты праціўніка. З 1966 нам. галоўнакамандуючага Войскамі ППА краіны. Канд. у чл. ЦК КПСС у 1961—66. Дэп. ВС СССР у 1962—66. Лаўрэат Ленінскай прэміі 1978.

**САВУ́ЦІН** Пётр Мацвеевіч (н. 1925, в. Вял. Сяло Лёзненскага р-на), поўны кавалер ордэна Славы. З 1943 на Цэнтр., Бел., 1-м Бел. франтах. Пам. камандзіра ўзвода разведкі ст. сяржант С. вызначыўся пры вызваленні Польшчы, у баях на тэр. Германіі. У ноч на 29.7.1944 на падручных сродках фарсіраваў Віслу, удзельнічаў у захопе плацдарма, знішчыў 5 гітлераўцаў, 14.1.1945 у раёне в. Коханув (Польшча) разам з аддзяленнем указаў ракетамі агнявыя кропкі праціўніка, першы завязаў бой з праціўнікам, асабіста знішчыў 18 гітлераўцаў, захапіў афіцэра і кулямёт. 18.4.1945 у час прарыву ўмацаванай абароны праціўніка ў раёне г. Лебус (Германія) на чале ўзвода ўварваўся ў варожыя траншэі, узвод заглушыў агонь 5 кулямётаў, знішчыў 80 варожых салдат, асабіста С.— 22 гітлераўцаў, 3 захапіў у палон, у якасці трафею ўзяў 2 станковыя кулямёты. 22.4.1945 каля в. Фалькенхаген падпусціў праціўніка на адлегласць 40 м, з узводам гранатамі і аўтаматным агнём знішчыў больш за 60 гітлераўцаў, асабіста 20. Жыве ў г. Усць-Кут Іркуцкай вобл.

**СА́ДЧЫКАЎ** Іван Фёдаравіч (18.3. 1909, г. п. Ніжні Чыр Суравікінскага р-на Валгаградскай вобл.— 30.5. 1978), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1946. З 1930 у Чырв. Арміі. З чэрв. 1941 на фронце. У партызанах з мая 1942: камандзір арганізатарскай групы, у ліп. 1942—ліп. 1944 *партызанскага палка Смаленскага.* У 1945—46 нам. міністра лёгкай прамысловасці БССР, потым у органах дзярж. бяспекі, на гасп. рабоце ў Мінску.

**САЕ́ВІЧ** Цімафей Аляксандравіч (н. 23.2.1919, в. Сухаполь Архангельскага р-на Башкірскай АССР), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1943. Беларус. У Чырв. Арміі з 1935. Скончыў Энгельскую ваен. авіяц. школу пілотаў (1942). На фронце з 1943. Камандзір авіязвяна капітан С. зрабіў 160 вылетаў на разведку варожых войск і тэхнікі, удзельнічаў

П. М. Савуцін. Ц. А. Саевіч.



у 7 паветр. баях, разведаў і сфатаграфаваў 160 буйных населеных пунктаў, 80 чыг. вузлоў і станцый, 45 аэрадромаў і пасадачных пляцовак, абарону ворага пад Смаленскам, Віцебскам, Полацкам, у Прыбалтыцы. Да 1964 у Сав. Арміі, палкоўнік. Пасля працаваў у грамадз. авіяцыі.

**САЗАНЫ́,** вёска на тэр. Віцебскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на ПнУ ад в. Сапраны Запольскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 220 чал. У снеж. 1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 21 жыхара, вёску (40 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**САКАЛІ́ШЧАНСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з ліп. 1941 да чэрв. 1942, да снеж. 1941 пад кіраўніцтвам Расонскага падп. РК КП(б)Б. Арганізатары і кіраўнікі П. А. *Куксёнак* (да 3.12. 1941), Л. А. *Папкоўскі.* Аб'ядноўвала 49 чал. Налічвала 10 груп: у вёсках Аляксееўцы і Пярэкі (кіраўнік І. Р.Конышаў), Боркавічы (І. Р. Каваленка), Буракова (Я. П. Кураш), Залессе (С. Р. Казачонак) Дрысенскага, Дубініна (В. В. Гушчанка), Латышова (П. А. Саўчанка), Лунёва (П. С. Шчадроў), Сакалішча (Л. Ф. Гатоўскі), Царкавішча (цяпер Кульнёва, тут знаходзіўся штаб арг-цыі; Ф. А. Куксёнак) Расонскага, Кацельня (П. М. Казлоў) Полацкага р-наў. Мела сувязь з *Расонскім партыйна-камсамольскім падполлем.* Касцяк яго склалі камуністы — байцы Сакалішчанскага знішчальнага атрада, якія пасля акупацыі перайшлі да падп. барацьбы: старшыня сельсавета

М. М. Буланаў, ветурач Гатоўскі, дэп. ВС БССР Куксёнак, дырэктар Галоўчыцкай школы П. А. Новікаў, каваль І. І. Сяляўскі, старшыня Расонскага райспажыўсаюза С. Е. Трацыякоў і інш. У пач. верасня і ў кастр. 1941 на нарадах кіраўнікоў груп былі вызначаны задачы, выпрацаваны структура падполля і метады барацьбы з ворагам. Адказным за паліт. работу сярод насельніцтва прызначаны б. дырэктар Валынецкай сярэдняй школы камуніст Казачонак, за ваен. справу і баявую падрыхтоўку — акружэнец ст. лейт. Папкоўскі. Было вырашана ўкараніць сваіх людзей у акупац. органы ўлады. Бургамістрам Сакалішчанскай воласці стаў Новікаў, старастамі ў вёсках Залессе і Царкавішча — б. старшыні калгасаў С. І. Ваяводаў і С. Т. Мацецкі. Гэта давала магчымасць загадзя ведаць і сабатаваць мерапрыемствы акупантаў, мець бланкі дакументаў. Разгледжана пытанне аб прыцягненні да падп. дзейнасці байцоў і камандзіраў Чырв. Арміі, якія трапілі ў акружэнне, арг-цыі ўцёкаў сав. ваеннапалонных з лагераў Баравуха 1-я і Баравуха 2-я. Для выратавання ваеннапалонных, якія ўцяклі з лагераў смерці, Аляксеева-Пярэкскай групай была наладжана пастаянная лодачная пераправа цераз р. Дрыса. Многія з іх пайшлі за лінію фронту, частка засталася для барацьбы з захопнікамі на акупіраванай тэрыторыі. Толькі ў вёсках Сакалішчанскага сельсавета Расонскага р-на і Дзёрнавіцкага сельсавета Дрысенскага р-на было ўладкавана на жыхарства 400 байцоў і камандзіраў Чырв. Арміі, якія трапілі ў акружэнне ці ўцяклі з лагераў. Амаль усе яны сталі партызанамі.



В. Д. Сакалоўскі. А. М. Саковіч.

Цэнтрам агітацыйна-прапагандысцкай работы была в. Залессе, дзе знаходзіўся адказны за палітмасавую работу Казачонак, быў радыёпрыёмнік. Перапісаныя ад рукі зводкі Саўінфармбюро праз сувязных Н. Ф. Куксёнак (Сяргееву) і З. Ф. Куксёнак (Касач) ён рассылаў кіраўнікам груп. Для сустрэч з моладдзю наладжваліся вечарынкі. Насельніцтва Сакалішчанскага сельсавета Расонскага р-на, Дзёрнавіцкага, Боркавіцкага, Баярскага і Замшанскага сельсаветаў Дрысенскага і Полацкага р-наў было інфармавана аб рэальным становішчы на франтах.

Падпольшчыкі ліквідавалі масласепаратарны пункт у в. Белае (цяпер Азіна) Полацкага р-на і раздалі насельніцтву яго прадукцыю, вывелі са строю 5 мастоў, знішчылі бульдозер, прызначаны для расчысткі дарог ад снегу, сабатавалі распараджэнні акупантаў па выкананню гэтай работы, у выніку шашэйныя дарогі з Полацка на Юхавічы, Невель, Дрысу зімой не функцыяніравалі. Зрываліся мерапрыемствы па зборы цёплага адзення і абутку, нарыхтоўцы харчоў для ням.-фаш. арміі.

Рыхтуючыся да партыз. барацьбы супраць акупантаў, падпольшчыкі запасаліся зброяй, у т. л. здабывалі яе ў ворага. У іх было каля 100 вінтовак і каля 50 тыс. патронаў, 2 аўтаматы, 2 станковыя і 7 ручных кулямётаў, стужкі і дыскі да іх, 45-міліметровая гармата, 380 снарадаў, ротны мінамёт і 300 мін да яго, 7 пісталетаў і рэвальвераў, 600 кг толу, бікфордаў і дэтанатарны шнуры, гранаты, бінoклі, компасы і інш. зброя, боепрыпасы, рыштунак. Кожная група рыхтавала кадры для фарміравання партыз. атрадаў. Акружэнцы І. М. Кухарэнка («Валянцін») стаў камандзірам, А. К. Касач — начальнікам штаба *партызанскай брыгады 2-й Дрысенскай*, Ф. А. Рабцаў — нач. штаба *партызанскай брыгады 1-й Дрысенскай*, Папкоўскі — нач. штаба спец. *партызанскага атрада «Баявы»*. Камандныя пасады ў партыз. атрадах занялі многія падпольшчыкі і выратаваныя імі ваеннапалонныя. Залеская група захавала для партызан з калгаснага статка 45 кароў.

У барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў загінулі: М. І. Аляксеенка (Мачонік), В. І. Васільеў, Я. І. Гадон, Л. Ф. Гатоўскі, П. Я. Ігнацьеў, М. М. Казачонак, А. Ф. Куксёнак, П. А. Куксёнак, Ф. А. Куксёнак, П. П. Кунько, С. Т. Мацецкі, І. А. Танькоў, Т. Л. Ткачоў, С. Е. Трацыякоў, К. Н. Фамінаў. Дзейнасць падполля адлюстравана ў *Расонскім музеі баявой садружнасці*. Гл. таксама *Боркавіцкае патрыятычнае падполле.*

*Л. А. Папкоўскі.*

**САКАЛО́ЎСКІ** Васіль Данілавіч (21.7.1897, в. Козлікі Беластоцкага ваяводства ПНР — 10.5.1968), Герой Сав. Саюза (1945). Маршал Сав. Саюза (1946). Чл. КПСС з 1931. У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію РСЧА (1921). З 1922 на штабной рабоце, у 1930—35 камандзір дывізіі БВА, потым у ваен. акругах, Генштабе Чырв. Арміі. У Вял. Айч. вайну з 1941 нач. штаба Зах. фронту, Зах. напрамку, камандуючы войскамі Зах. фронту, нач. штаба 1-га Укр. фронту, нам. камандуючага войскамі 1-га Бел. фронту. Удзельнік расправоўкі *Смаленскай аперацыі 1943, Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944.* Пасля вайны нам. галоўнакамандуючага, з сак. 1946 галоўнакамандуючы Групай сав. войск у Германіі, Галоўнаначальствуючы сав. ваен. адміністрацыі ў Германіі, адначасова чл. Кантрольнага Савета ад СССР па кіраванню Германіяй. У 1949—52 1-ы нам. ваен. міністра СССР, потым нач. Генштаба — 1-ы нам. міністра абароны СССР. З 1960 генеральны інспектар Групы генеральных інспектараў Міністэрства абароны СССР. Чл. ЦК КПСС у 1952—61, канд. у чл. ЦК КПСС з 1961. Дэп. ВС СССР з 1946. У Гродне імем С. названа вуліца, устаноўлены бюст; у гісторыка-археалагічным музеі яму прысвечана экспазіцыя. Яго імя прысвоена Новачаркаскаму вышэйшаму ваенна-каманднаму вучылішчу сувязі.

**САКАЛО́ЎСКІ** Іосіф Пятровіч (18.4.1912, в. Баравіно Бярэзінскага р-на — 18.6.1982), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1939. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КПБ (1953). З 1934 на журналісцкай, сав. і камсам. рабоце, з 1939 заг. аддзела Бярэзінскага РК КП(б)Б. З чэрв. 1941 на Зах. фронце, удзельнік абароны Магілёва. У партызанах з мая 1942, з вер. камісар атрада, у жн. 1943—крас. 1944 — *партызанскай брыгады 120-й*, адначасова ў ліп. 1942— крас. 1944 сакратар Бярэзінскага падп. РК КП(б)Б, у ліп. 1943— крас. 1944 кіраўнік *Бярэзінскай ваенна-аператыўнай групы*, у крас. 1943— крас. 1944 чл. Магілёўскага падп. абкома КП(б)Б. З 1944 заг. аддзела Магілёўскага абкома, 1-ы сакратар Дрыбінскага, Мсціслаўскага, Круглянскага РК КПБ, у 1958—68 на журналісцкай рабоце ў Клімавічах. Дэп. ВС БССР у 1947—59.

**САКМА́РКІН** Мікалай Аляксандравіч (н. 1.8.1912, с. Ілек Арэнбургскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1942. З 1930 на гасп. рабоце. З чэрв. 1941 на фронце. У партызанах з чэрв. 1942: камандзір групы, атрада, нам. камандзіра брыгады імя Кароткіна, у лют. 1943— ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады імя У. І. Леніна*, адначасова чл. Сіроцінскага падп. РК КП(б)Б. Да 1967 на сав. і адм.-гасп. рабоце ў Віцебскай вобл.

**САКО́ВІЧ** Антон Навумавіч (25.12.1895, б. хутар Новамацеева, Лагойскі р-н — 16.2.1982), ген.-лейт. інтэндацкай службы (1946). У арміі з 1915, у Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Вышэйшыя стралк.-тактычныя курсы (1931). У 1931—37 у БВА. У Айч. вайну інтэндант Паўн.-Зах. фронту, нач. тылу 11-й і 65-й армій. Удзельнік вызвалення Беларусі (Калінкавіч, Мазыра, Бабруйска, Баранавіч, Слоніма), баёў на тэр. Усх. Прусіі, Памераніі, Берлінскай аперацыі. Да 1956 у Сав. Арміі.

**САКО́ЛЬСКІ** Аляксандр Кузьміч (6.12.1903, ст. Аляксікава Нованікалаеў-

скага р-на Валгаградскай вобл.— 14.11.1979), ген.-палк. артылерыі (1944), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1938. У Чырв. Арміі з 1921. Скончыў Ленінградскую арт. школу (1925), арт. курсы ўдасканалення камсаставу (1937). На фронце з чэрв. 1941. У час *Беларускай аперацыі 1944* С. камандаваў артылерыяй 2-га Бел. фронту, арганізаваў магутныя ўдары на рашаючых напрамках, што садзейнічала прарыву варожай абароны, фарсіраванню рэк Проня, Бася, выхаду да Дняпра і разгрому праціўніка войскамі фронту. Да 1955 у Сав. Арміі.

**САЛА́ДЫШАЎ** Арцём Іванавіч (5.10.1910, в. Лазаравічы Быхаўскага р-на — 27.1.1960). Герой Сав. Саюза (1945). Удзельнік сав.-фінл. вайны (1939—40). У Айч. вайну з 1943 партызан, камандзір узвода *партызанскага палка 810-га,* які дзейнічаў у Магілёўскай вобл. На фронце з 1944, камандзір стралк. аддзялення, сяржант. Вызначыўся пры вызваленні Магілёўскай вобл. 27.6.1944 пад варожым агнём пераправіўся цераз Дняпро на Пд ад Магілёва, у баі за в. Стайкі гранатамі знішчыў дзот, які перашкаджаў наступаць сав. пяхоце, і каля 30 гітлераўцаў. Паранены, не пакінуў поля бою. Удзельнічаў у вызваленні Польшчы, штурме Берліна. Яго імем названы вуліца і завулак у г. Быхаў.

**САЛАМАРЭ́ЧЧА,** вёска на тэр. Мінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася ў Юзуфаўскім сельсавеце. Перад вайной у ёй жыло 62 чал. 1.5.1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 47 жыхароў, у т. л. 25 дзяцей, вёску (17 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Ахвяры фашызму пахаваны за 1,5 км на Пд ад в. Гатовіна Юзуфаўскага сельсавета, у 1973 на магіле пастаўлены абеліск. Вёска ўвекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**САЛАМО́НІКАЎ** Іван Міхайлавіч (20.2.1918, в. Калінавая Магілёўскага р-на — 24.10.1944), Герой Сав. Саюза (1940). У Чырв. Арміі з 1938. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. Вызначыўся ў баі на Карэльскім перашыйку. У ноч на 22.12.1939 у складзе стралк. батальёна радавы С. атакаваў варожую пазіцыю, закідаў гранатамі акоп і заняў яго, у баі памог параненаму камандзіру ўзвода. У Айч. вайну маёр С. камандаваў зенітна-арт. палком. Прапаў без вестак.

**САЛІГО́РСКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты 11.8.1984. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, мае каля 200 экспанатаў, пл. 40 м². Расказваецца пра пачатковы перыяд вайны (чырвонаармейская кніжка ўраджэнца раёна М. С. Чадовіча, дакументы, абломкі самалёта лётчыка Г. А. Кандрацьева, які загінуў у ліп. 1941, і інш.), пра ўзнікненне і разгортванне падполля і партыз. руху ў раёне: матэрыялы пра дзейнасць Мінскага падп. абкома КП(б)Б, Старобінскіх падп. РК КП(б)Б і ЛКСМБ, баявыя дзеянні партыз. брыгад 101-й імя Аляксандра Неўскага, 12-й кав. імя Сталіна, фарміраванняў Пінскага партыз. злучэння (лістоўкі, сатырычныя лісткі, падп. газеты *«Звязда», «Чырвоная змена», «Кліч Радзімы»,* зброевая майстэрня, дакументы, асабістыя рэчы, баявыя ўзнагароды, фатаграфіі ўдзельнікаў партыз. руху, у т. л. Герояў Сав. Саюза Дз. Ц. *Гуляева,* В. З. *Каржа,* У. А. *Ціхамірава* і інш., комплексы матэрыялаў, прысвечаных падп. друку, удзелу камсамольцаў і моладзі ў падп. барацьбе, стварэнню мед. службы ў партыз. фарміраваннях). Экспануюцца матэрыялы пра злачынствы ням.-фаш. захопнікаў у раёне. Расказваецца пра вызваленне раёна воінамі 19-й механіз. брыгады, конна-механіз. групы і партызанамі злучэння Мінскай вобл. (асабістыя рэчы, дакументы, фатаграфіі воінаў-вызваліцеляў). Экспануюцца асабістыя рэчы, дакументы, фатаграфіі ўраджэнцаў раёна Герояў Сав. Саюза А. А. *Жука,* Л. З. *Муравіцкага,* Дз. С. *Наруцкага,* А. К. Стамкоўскай, карціны «Подзвіг братоў Цубаў» (маст. П. Драчоў), «Подзвіг лейтэнанта М. А. Зіноўева» (маст. В. Мікіта).

*Л. І. Бойка.*

**САЛЮ́ТЫ ПЕРАМО́ЖНЫЯ.** Праводзіліся ў Маскве ў 1943—45 у гонар буйных перамог на франтах Вял. Айч. вайны паводле загада Вярх. Галоўнакамандуючага і здзяйсняліся войскамі ППА. Першы салют быў дадзены 5.8.1943 у гонар войск Бранскага і Сцяпнога франтоў, якія вызвалілі ад ням.-фаш. захопнікаў гарады Арол і Белгарад. Пазней была ўстаноўлена градацыя салютаў па катэгорыях: салюты 1-й катэгорыі (за вызваленне сталіц саюзных рэспублік, авалоданне сталіцамі інш. дзяржаў, выхад на дзярж. граніцу СССР і інш. дзяржаў, у гонар асабліва выдатных падзей) праводзіліся 24 арт. залпамі з 324 гармат, 2-й (за вызваленне абл. цэнтраў, вял. гарадоў, за прарыў вельмі ўмацаванай абароны праціўніка, у гонар фарсіравання рэк і інш.) — 20 арт. залпамі з 224 гармат, 3-й (за авалоданне вузламі чыгунак і шашэйных дарог, буйнымі населенымі пунктамі, якія мелі аператыўнае значэнне) — 12 арт. залпамі з 124 гармат. У Дзень Перамогі над фаш. Германіяй 9.5.1945 быў дадзены салют 30 арт. залпамі з 1000 гармат, з падсвечваннем прамянямі 160 пражэктараў і пускам ракет. Усяго праведзена 354 С. п. (35 — у 1943, 166 — у 1944, 153 — у 1945). У гонар войск, якія вызначыліся пры вызваленні Беларусі ў ходзе восеньска-зімовай кампаніі 1943—44, было зроблена 5 салютаў. У ходзе аперацыі «Баграціён» дадзена 36 салютаў, у т. л. ў гонар войск, што вызначыліся ў баях пры вызваленні Беларусі,— 24. Першы салют за вызваленне першага бел. горада Рэчыцы дадзены 18.11.1943, за вызваленне першага абл. цэнтра рэспублікі Гомеля — 26.11.1943, за вызваленне сталіцы Беларусі Мінска — 3.7.1944, Брэста — 28.7.1944.

Салюты праводзіліся з наступленнем цемнаты, пасля прачытання загада па радыё, суправаджаліся феерверкам рознакаляровых сігнальных ракет і пад свечваннем зенітнымі пражэктарамі. Для правядзення С. п. зенітныя батарэі ўста-

А. І. Саладышаў. І. М. Саламонікаў.



наўліваліся ў горадзе на спец. салютных кропках так, каб грукат залпаў быў чутны паўсюдна. У перыяд найбольшых поспехаў сав. войск С. п. праводзіліся па некалькі разоў на дзень (напрыклад, 27.7.1944, 19.1 і 22.1.1945 было праведзена па 5 салютаў). Пасля заканчэння вайны традыцыя салютаў захавалася ў выглядзе святочных феерверкаў, якія праводзяцца ў дні агульнадзярж. свят па загаду міністра абароны СССР у Маскве, сталіцах саюзных рэспублік, гарадах-героях, Брэсцкай крэпасці-герої і інш. гарадах.

*І. С. Храпаў.*

**САЛЯ́НІКАЎ** Анатоль Данілавіч (н. 19.7.1919, в. Чурылава Аршанскага р-на), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1944. Скончыў Энгельскую ваен. авіяц. школу пілотаў (1942). З 1942 на Бранскім, 2-м Прыбалт. франтах. Камандзір эскадрыллі штурмавікоў капітан С. зрабіў 115 баявых вылетаў, знішчыў 10 танкаў, 2 бронемашыны, 120 аўтамашын, 18 гармат, 4 вагоны, склад, 6 мінамётаў, 44 павозкі з грузам, больш за 500 гітлераўцаў. Да 1947 у Сав. Арміі, потым да 1981 на адм.-гасп. рабоце.

**САМА́РА-УЛЬЯ́НАЎСКАЯ БЯРДЗІ́ЧАЎСКАЯ ЖАЛЕ́ЗНАЯ СТРАЛКО́ВАЯ ДЫВІ́ЗІЯ** тройчы Чырванасцяжная, ордэнаў Суворава і Багдана Хмяльніцкага. Сфарміравана ў 1918 у Сімбірскай губерні як 1-я зводная Сімбірская пях. дывізія, у ліст. 1918 перайменавана ў 24-ю стралк. дывізію (яе першы начальнік Г. Дз. Гай). Удзельнічала ў грамадз. вайне, за баявыя заслугі атрымала ганаровыя найменні «Самарскай» (13.12.1920) і «Жалезнай» (25.10.1921). З 1922 наз. 24-я Самара-Сімбірская Жалезная, з 1924 — 24-я Самара-Ульянаўская

Жалезная стралк. дывізія, узнаг. ордэнам Чырв. Сцяга (23.12.1933). Удзельнічала ў сав.-фінл. вайне, узнаг. ордэнам Чырв. Сцяга (11.4.1940). Напярэдадні Айч. вайны дыслацыравалася ў Зах. асобай ваен. акрузе, мела 3 стралк. і 2 арт. палкі. Упершыню ўступіла ў бай 25.6.1941 у складзе 13-й арміі Зах. фронту на рубяжы Трабы-Суботнікі (40 км на ПнУ ад Ліды). У ходзе жорсткіх баёў з намнога большымі сіламі ворага з 25 да 29 чэрв. воіны дывізіі падбілі больш за 100 танкаў, знішчылі некалькі тысяч салдат і афіцэраў, збілі 8 самалётаў ворага. З 29 чэрв. з цяжкімі баямі асобнымі атрадамі дывізія адыходзіла на Дзяржынск, Слуцк, Глуск, Азарычы і злучылася з войскамі фронту. Дзве трэці асабовага складу злучэння выйшла з акружэння, прычыніўшы ворагу значна большыя страты, чым панесла само. Але ў сувязі са стратай сцяга дывізіі злучэнне было расфарміравана і выключана са складу Чырв. Арміі (27.12.1941). Новая 24-я стралк. дывізія ў складзе 3 стралк. і 1 арт. палкоў сфарміравана ў Валагодскай вобл. ў лют. 1942, удзельнічала ў Сталінградскай бітве, вызваленні Украіны, вызначылася ў баях пры вызваленні г. Бярдзічава, ёй было нададзена ганаровае найменне «Бярдзічаўская» (6.1.1944). У кастр. 1943 высветлілася, што сцяг б. 24-й дывізіі ў час выхаду яе з акружэння знаходзіўся ў інструктара палітаддзела дывізіі ст. палітрука А. В. Барбашава, які загінуў 6.8.1941 у баі з гітлераўцамі каля в. Анюціна Чэрыкаўскага р-на. Мясцовы жыхар Дз. М. *Цяпін* знайшоў на целе загінуўшага афіцэра сцяг дывізіі і пахаваў загінуўшага воіна разам са сцягам на мясцовых могілках. Пасля вызвалення вёскі ад фаш. акупантаў сцяг перададзены Чырв. Арміі. 20.2.1944 з мэтай захавання баявых традыцый паводле загада Наркамата абароны СССР новай 24-й дывізіі быў перададзены пасля рэстаўрацыі сцяг Самара-Ульянаўскай Жалезнай стралк. дывізіі і яе ўзнагароды. За выратаванне сцяга дывізіі Дз. М. Цяпін навечна залічаны ў спісы 1-й стралк. роты 7-га стралк. палка дывізіі. У сак. 1944 дывізія вызначылася пры вызваленні г. Чарнавіцы, за што ўзнаг. ордэнам Суворава II ступені (8.4.1944), яна адной з першых выйшла на дзярж. граніцу СССР з Румыніяй і ўзнаг. ордэнам Багдана Хмяльніцкага II ступені (18.4.1944), удзельнічала ў вызваленні Чэхаславакіі. За гады вайны каля 9 тыс. воінаў дывізіі ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР, двое з іх удастоены звання Героя Сав. Саюза.

Камандзіры: ген.-маёр К. М. *Галіцкі* (чэрв.— ліп. 1941), палк., з 27.1.1943 ген.-маёр Ф. А. Прохараў (люты 1942 — да канца вайны). Пасля вайны дывізія пераўтворана ў мотастралк., узнаг. ордэнам Кастрычніцкай Рэвалюцыі.

*М. І. Камінскі.*

**САМБУ́К** Іван Елісеевіч (28.7.1919, в. Рог Петрыкаўскага р-на — 27.5.1979), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1942. Скончыў Ваен. інж. радыётэхн. акадэмію проціпаветр. абароны імя Говарава (1956). З 1941 на Паўд., Зах., Бранскім, Цэнтр., 1-м Укр. франтах. Вызначыўся ў Курскай бітве, пры фарсіраванні Дзясны, Дняпра, Прыпяці. У ліп. 1943 агнявы ўзвод арт. палка пад камандаваннем ст. сяржанта С. з адкрытых пазіцый 3 дні адбіваў атакі варожых танкаў і пяхоты. У час фарсіравання рэк агнём гармат садзейнічаў наступленню палка. Гаўбіца, разлікам якой камандаваў С., экспануецца ў Бел. дзярж. музеі гісторыі Вял. Айч. вайны. Да 1960 у Сав. Арміі, палк.-інжынер, потым на вакладчыцкай рабоце ў Мінску.

**САМБУ́К** Фёдар Іванавіч (н. 12.6.1919, г. п. Капаткевічы Петрыкаўскага р-на), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсам.-маладзёжнага падполля і партыз. руху ў Палескай вобл. Чл. КПСС з 1943. Скончыў ВПШ пры ЦК КПСС (1953). З 1937 настаўнік. З студз. 1942 пам. камісара па камсамолу атрада, потым партыз. брыгады 125-й Капаткевіцкай. З 2.8.1943 да 6.7.1944 сакратар *Палескага падпольнага абкома ЛКСМБ.* У 1944—80 на парт. і сав. рабоце. Канд. у чл. ЦК КПБ у 1971—81. Дэп. ВС БССР у 1971—80.

**САМУСЁЎ** Андрэй Фёдаравіч (5.10.1908, в. Высокае Рагачоўскага р-на — 8.5.1965), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1954. На фронце з 1941, мінамётчык. Вызначыўся ў кастр. 1943 пры вызваленні Лоеўскага р-на. Першы з роты пераправіўся цераз Дняпро, у рукапашным баі за плацдарм знішчыў некалькі гітлераўцаў, чым садзейнічаў пераправе падраздзяленняў палка. Пасля вайны старшыня калгаса на радзіме.

**САМУ́ЦІН** Васіль Емяльянавіч (28.6.1906, в. Воўкаў Перавоз Любомльскага р-на Валынскай вобл.— 13.8.1981), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Беластоцкай вобл. ў Айч. вайну, журналіст. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1967). Чл. КПСС з 1926. У 1930—34 у друку, потым на падп. парт. рабоце ў Зах. Беларусі: сакратар Беластоцкага акруговага к-та КПЗБ, у 1935 арыштаваны ўладамі бурж. Польшчы і зняволены ў турму. Перад вайной на журналісцкай рабоце. З чэрв. 1941 на фронце. З чэрв. 1942 рэдактар газ. *«Віцебскі рабочы».* З 27.7.1943 да ліп. 1944 1-ы сакратар *Беластоцкага падпольнага абкома КП(б)Б,* кіраўнік *Беластоцкага партызанскага злучэння.* З жн. 1944 рэдактар газ. «Звязда», «Советская Белоруссия». У 1946—50 2-і, 1-ы сакратар Баранавіцкага абкома КП(б)Б. З 1950 нам. міністра лясной гаспадаркі БССР. У 1953—66 гал. рэдактар час. «Сельское хозяйство Белоруссии». Канд. у чл. ЦК КП(б)Б у 1949—52. Дэп. ВС БССР у 1947—51.

**САНДА́ЛАЎ** Леанід Міхайлавіч (н. 10.4.1900, г. Вічуга Іванаўскай вобл.), ген.-палк. (1944). Чл. КПСС з 1925. У Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў ваен. акадэмію імя Фрунзе (1934), Генштаба (1937). З вер. 1937 у БВА, удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. З 1940 нач. штаба 4-й арміі, у ліп.— жн. 1941 — Цэнтр. фронту. У пач. вайны ўдзельнічаў у абарончых баях у раёне Брэста, Баранавічаў, Прапойска. У 1941—45 нач. штаба Бранскага фронту, 20-й арміі, 2-га Прыбалт., 4-га Укр. франтоў. Да 1953 на адказных пасадах у Сав. Арміі. Аўтар кніг «Пагарэла-Гарадзішчан-



А. Д. Салянікаў. І. Е. Самбук. А. Ф. Самусёў. В. Е. Самуцін. В. А. Санфірава. М. Ф. Сафонаў.

ская аперацыя» (1960), «Цяжкія рубяжы» (1965), «Перажытае» (1966), «На маскоўскім напрамку» (1970), «Пасля пералому» (1983).

**САНФІРАВА** Вольга Аляксандраўна (2.5.1917, Куйбышаў — 13.12.1944), Герой Сав. Саюза (1945). На фронце з мая 1942, удзельніца абароны Каўказа, вызвалення Крыма, Беларусі. Камандзір эскадрыллі 46-га Таманскага начнога лёгкабамбардзіровачнага жаночага авіяпалка, капітан. У час *Беларускай аперацыі 1944* бамбіла жывую сілу і тэхніку праціўніка пад Магілёвам, Гродна, на пераправе праз р. Пціч. На яе рахунку 630 баявых начных вылетаў. У ноч на 13.12.1944 пры вяртанні з баявога задання самалёт быў падбіты. Загінула на мінным полі. Пахавана ў Гродне, дзе яе імем названа вуліца.

**САПОЦКІН,** гар. пасёлак у Гродзенскім р-не. За 22 км на ПнЗ ад Гродна, 27 км ад чыг. ст. Гродна, звязаны з ім аўтадарогай. У 1940—59 цэнтр Сапоцкінскага р-на. 22.6.1941 у раёне С. разгарнуліся бязлітасныя баі. Адны з першых у бой супраць ням.-фаш. захопнікаў уступілі пагранічнікі размешчаных паблізу С. застаў — 3-й (лейт. В. М. Усаў), 1-й (ст. лейт. А. М. Сівачоў), 4-й (ст. лейт. Ф. П. Кірычэнка) 86-га Аўгустоўскага пагранатрада, якія на працягу больш як 10 гадз адбівалі шматлікія атакі намнога большых сіл праціўніка. Упартае супраціўленне часцям 161-й ням. пяхотнай дывізіі, якая наступала, аказалі воіны падраздзяленняў 213-га стралк. палка (маёр Ц. Я. Якаўлеў) 56-й стралк. дывізіі (ген.-маёр С. П. Сахноў), 1-га батальёна (капітан К. Л. Спірычаў) 23-га асобнага сапёрнага палка, а таксама 9-га асобнага арт.-кулямётнага батальёна (П. В. Жыла) 68-га Гродзенскага УР, паднятага па трывозе 22 чэрв. ў 3 гадз 35 мін раніцы (напярэдадні вайны яны будавалі абарончыя ўмацаванні ў раёне С. і Аўгустоўскага канала). Праціўнік пацярпеў вял. страты і адышоў. Да зыходу дня ням. 28-я пях. дывізія прарвала ўчастак УР і абышла С. з Пн і Пд, Сав. часці, у т. л. 113-ы арт. полк, які прыбыў з вучэбных збораў, арганізавалі кругавую абарону і працягвалі гераічна змагацца ў акружэнні. Удзень 22 чэрв. на Пд ад С. сав. войскамі 29-й танк. дывізіі (палк. М. П. Студнеў) 11-га механіз. корпуса быў нанесены адзін з першых контрудараў па ням.-фаш. войсках. Праціўнік страціў каля 2 батальёнаў пяхоты, 34 бронетранспарцёры, 21 танк, яго наступленне было часова затрымана. Паводле сведчання камандзіра ням. 8-га армейскага корпуса 9-й арміі ген. Хейца «бой у раёне Сапоцкіна працягваўся да 24 чэрвеня ўключна». Гарнізоны некаторых дотаў змагаліся ў акружэнні да 26—27 чэрвеня. У в. Свят-Гурск Сапоцкінскага р-на жыхары арганізавалі атрад самаабароны колькасцю 40 чал., які разам з воінамі адбіваў варожыя атакі. Акупіраваны 22.6.1941 ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў С. і раёне 3418 чал., у т. л. ў С. 539 чал. У С. і раёне дзейнічалі Сапоцкінскія падп. райкомы КП(б)Б (вер. 1943—13.7.1944) і ЛКСМБ (1.12.1943—13.7.1944). Вызвалены 18.7.1944 воінамі 174-й стралк. дывізіі (палк. М. І. Дзёмін) 36-га стралк. корпуса 31-й арміі 3-га Бел. фронту ў ходзе *Беластоцкай аперацыі 1944* і *Вільнюскай аперацыі 1944*. У С. брацкія магілы сав. воінаў і партызан, пагранічнікаў (сярод пахаваных Герой Сав. Саюза Усаў), магіла ахвяр фашызму, на якіх пастаўлены помнікі. *Т. І. Паваліхіна.*

**САР'ЯНСКАЕ ПАРТЫЙНАЕ ПАДПОЛЛЕ.** Дзейнічала з жн. 1941 да чэрв. 1942 у в. Сар'я Дрысенскага (цяпер Верхнядзвінскі) р-на. Кіраўнік Б. А. Жук. Падпольшчыкі збіралі зброю, распаўсюджвалі лістоўкі, зрывалі збор акупантамі прадуктаў харчавання і вываз сав. людзей на катаргу ў Германію. Стварылі групы партыз. рэзерву ў в. Дзегцярова (кіраўнік В. І. Аўсюк), Громаўкі (А. А. Воранаў), Мушына (А. Ф. Ліпскі), Шунькі (П. К. Пілюшкін), якія рыхтавалі людзей да партыз. барацьбы. У сувязі з пагрозай выкрыцця 21 падпольшчык у маі — чэрв. 1942 пайшоў у партызаны. На базе гэтай групы створаны партыз. атрад імя Пархоменкі [гл. ў арт. *Партызанская брыгада імя ЦК КП(б)Б*].

У барацьбе з акупантамі загінулі Л. С. Аткін, А. А. Воранаў, С. Г. Купрын, Е. І. Ледак, П. К. Пілюшкін, М. В. Чыркун. 12 удзельнікаў падполля ўзнаг. ордэнамі і медалямі. *Я. Н. Козін.*

**САЎЧУК** Міхаіл Андрэевіч (7.11.1900, в. Сухоўчыцы Кобрынскага р-на — 25.8.1982), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Брэсцкай вобл. Чл. КПСС з 1925. Скончыў Днепрапятроўскі металургічны ін-т (1941). З 1923 на гасп. і сав. рабоце. З пач. вайны на фронце. З сак. 1942 у партызанах: сувязны, радавы, палітрук роты. У крас.— ліп. 1944 камісар атрада імя Фрунзе *партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна,* адначасова з 20.6.1944 сакратар *Брэсцка-Жабінкаўскага падпольнага міжрайкома КП(б)Б.* Пасля вайны на адм. і гасп. рабоце.

**САФОНАЎ** Міхаіл Фролавіч (н. 10.1.1925, в. Шастакі Горацкага р-на), поўны кавалер ордэна Славы. З 1943 партызан, з 1944 на фронце. Разведчык радавы С. вызначыўся: 19.9.1944 пры захопе «языка» ў раёне р. Нараў (Польшча); 14.1—1.2.1945 у баях на тэр. Германіі ў час разведкі знішчыў 12 гітлераўцаў, захапіў кулямёт і 10 аўтаматаў; пры ліквідацыі варожай групоўкі ў раёне Берліна першы ўварваўся ў размяшчэнне ворага, знішчыў 13 гітлераўцаў і 9 захапіў у палон. Жыве ў в. Казіміраўка Магілёўскага р-на.

**САЦУНКЕВІЧ** Іван Лявонавіч (28.10. 1904, в. Маконь, Чэрвеньскі р-н — 18.4.1989), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1929. Скончыў БДУ (1931). З 1939 1-ы сакратар Заслаўскага райкома, сакратар Мінскага абкома КП(б)Б. З ліп. 1941 у тыле ворага на падп. парт. рабоце. У лют.—снеж. 1942 арганізатар і камісар партыз. атрада «Разгром»; з 3.10.1942 да 15.3.1943 сакратар *Мінскага падпольнага міжрайкома КП(б)Б* і камандзір партыз. злучэння Мінскай зоны. Чл. *Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б* з 16.11. 1942 да сак. 1943, нарком, з 1946 да 1953 міністр лёгкай прамысловасці БССР. Да 1965 на адказнай гасп. рабоце. Канд. у чл. ЦК КПБ у 1949—54. Дэп. ВС БССР у 1947—51. Аўтар кн. «Суровая быль» (2 выд., 1979).

**«САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ ВЕСКА»,** газета, заснавана ў 1930 пад наз. «Камунар Глушчыны». У час ням.-фаш. акупацыі орган Глускага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 22 нумары за 22.8.1943—27.3.1944 на бел. мове. Рэдактар С. Ф. Шумоўскі. Пасля вызвалення выдавалася пад той жа назвай, з 1967 «Сцяг Радзімы», орган Глускага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ ПРАЦА»,** газета, заснавана ў 1938. У час ням.-фаш. акупацыі орган Васілевіцкага падп. РК КП(б)Б. Вядома 8 нумароў за 23.8—7.10.1943 на бел. мове. Рэдактар П. П. Спірыдонаў. Пасля вызвалення выдавалася да 1959 пад той жа назвай, орган Васілевіцкага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**«САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ ПРАЦА»,** газета, заснавана ў 1932 пад наз. «Калектывіст Расоншчыны». У час ням.-фаш. акупацыі орган Расонскага падп. РК КП(б)Б. Вядома 11 нумароў за 22.6—1.10.1943 на бел. мове. Рэдактар У. Я. Курловіч. З 1966 выходзіць пад наз. «Камуністычны шлях», орган Расонскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**САШНЕЎ** Васіль Якаўлевіч (1916—14.4.1944), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1943. У партызанах з мая 1942: камісар атрада, з ліст. 1943 *партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава.* Загінуў у баі.

**«САЮЗ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ»** («СБМ»), антысавецкая маладзёжная арг-цыя на Беларусі ў час ням.-фаш. акупацыі.

Створаны 22.6.1943 на ўзор «Саюза гітлераўскай моладзі» пад непасрэдным кіраўніцтвам генеральнага камісара Беларусі гаўляйтэра В. Кубэ (ён зацвердзіў статут і праграму «Саюза»). Знаходзіўся ў распараджэнні аддзела моладзі ген. камісарыята Беларусі, якім кіравалі Шульц і яго нам. па рабоце ся-

род дзяўчат Гроземан. Вышэйшы кіраўнічы орган «СБМ» — «Цэнтральны штаб» на чале з М. Ганько і Н. Абрамавай знаходзіўся ў Мінску, з ліп. 1944 — у Берліне. Пры «штабе» было 4 аддзелы, у т. л. «Працоўная група» па вярбоўцы і адпраўцы моладзі на работу ў Германію. На месцах ствараліся акруговыя і раённыя штабы «СБМ». Галоўная задача і мэта «Саюза» — ідэалагічная апрацоўка і выхаванне бел. моладзі ў духу фашызму, папаўненне ёю вайсковых і ахоўных фарміраванняў. Ад уступаючых у «СБМ» бралася падпіска-клятва на вернасць. Члены «Саюза» насілі спец. форму, мелі свой друкаваны орган часопіс «Жыве Беларусь» і інш., супрацоўнічалі з СД, жандармерыяй, тайнай паліцыяй. У «Саюз» удалося загнаць нязначную частку бел. моладзі. ЦК КП(б)Б і ЦК ЛКСМБ, падп. парт. і камсам. арг-цыі праводзілі арганізацыйную і паліт. работу супраць стварэння «СБМ», а там, дзе арг-цыі былі створаны, праводзілася работа па іх разлажэнню. Спроба гітлераўцаў справакаваць бел. моладзь на ўзброеную барацьбу супраць свайго народа правалілася.



С. А. Свідзерскі. І. В. Свідзінскі.

**САЮЗ ПОЛЬСКІХ ПАТРЫЁТАЎ У СССР** (СПП), грамадска-паліт. арг-цыя дэмакратычнага і агульнанацыянальнага характару ў студз. 1943 — жн. 1946. Створана з прадстаўнікоў польскай эміграцыі, якія знаходзіліся ў СССР. Дзейнічаў пры падтрымцы цэнтр. і мясцовых сав. дзярж. органаў. 1-ы з'езд СПП (чэрв. 1943, Масква) прыняў дэкларацыю саюза і яго статут. Задачамі СПП абвяшчаліся: садзеянне вызваленню Польшчы ад ням.-фаш. акупантаў, умацаванне сяброўскіх сувязей польскага і сав. народаў, вырашэнне пытанняў сац. забеспячэння польскіх эмігрантаў і наладжвання культурна-асветнай работы сярод іх. У Гал. праўленне СПП уваходзілі В. Васілеўская, З. *Берлінг*, С. Ендрыхоўскі і інш. Друкаваны орган «Wolna Polska» («Свабодная Польшча»). Па ініцыятыве СПП 6.5.1943 Дзярж. Камітэт Абароны прыняў пастанову аб фарміраванні 1-й польскай пях. дывізіі (пазней імя Т. Касцюшкі), якая 12—13.10.1943 у саставе сав. 33-й арміі Зах. фронту ўдзельнічала ў прарыве варожай абароны каля в. Леніна Горацкага р-на. На месцы бою створаны *Мемарыяльны комплекс савецка-польскай баявой садружнасці.*

**СВЕ́РЖАНЬСКАЕ ПАРТЫ́ЙНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з вер. 1941 да кастр. 1942 у в. Свержань Журавіцкага р-на пад кіраўніцтвам Рагачоўскага падп. РК КП(б)Б. Кіраўнік Т. Ф. Карніенка. Падпольшчыкі прымалі ўдзел у стварэнні патрыятычных падп. груп у суседніх вёсках, збіралі зброю, распаўсюджвалі сярод насельніцтва зводкі Саўінфармбюро, ратавалі сав. людзей ад вывазу на катаргу ў фаш. Германію, зрывалі вываз хлеба, жывёлы, вялі разведку. Падарвалі 10 аўтамашын ворага, 2 масты, склад з гаручым у Доўску. Падполле падрыхтавала базу для разгортвання партыз. руху ў Журавіцкім р-не. У кастр. 1942 усе падпольшчыкі ўліліся ў *партызанскую брыгаду 10-ю Журавіцкую.* *А. Ф. Маркава.*

**СВЕТЛАГО́РСКІ МУЗЕ́Й ГІСТО́РЫІ ГО́РАДА.** Адкрыты ў кастр. 1978 як краязнаўчы, з ліст. 1979 музей гісторыі горада. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, мае больш за 200 экспанатаў, пл. 66,7 м². Прадстаўлены матэрыялы пра пачатковы перыяд вайны, стварэнне і баявую дзейнасць Парыцкага знішчальнага батальёна: фатаграфіі байцоў, асабістыя рэчы, зброя, дакументы, партрэт камандзіра батальёна М. І. Траяна. Расказваецца пра ўзнікненне і разгортванне падполля і партыз. руху ў раёне [фатаграфіі сакратароў Палескага падп. абкома КП(б)Б І. Дз. Вятрова, М. І. Малініна, Ф. М. Языковіча, сакратара Парыцкага падп. РК КП(б)Б К. А. Дудко, лістоўка «Да беларускага народа», падп. газеты *«Звязда»*, *«Бальшавік Палесся»*, *«Голас партызана»*, фатаграфіі партызан брыгады імя Панамарэнкі і Парыцкага атрада імя Кірава, у т. л. камандзіра атрада М. І. Какоўкі, нач. разведкі атрада Б. Я. Хараненкі, камісара брыгады Я. Р. Садавога, нам. камісара А. П. Харламава, фатаграфія і баявыя ўзнагароды нам. камісара атрада імя Жукава брыгады імя Панамарэнкі В. Р. Крышнёвай і інш.]. Дакументы і матэрыялы расказваюць пра злачынствы ням.-фаш. захопнікаў у раёне (акт Надзвычайнай камісіі пра расследаванне злачынстваў ням.-фаш. акупантаў на тэр. Парыцкага р-на, фатаграфіі спаленай в. Ала, Азарыцкага лагера смерці і інш.). Экспануюцца матэрыялы пра вызваленне раёна войскамі 65-й арміі ў выніку *Бабруйскай аперацыі 1944*: схема баявых дзеянняў каля в. Здудзічы, карта «Вызваленне Беларусі», зброя, знойдзеная на месцах баёў, фатаграфіі 9 Герояў Сав. Саюза, якія загінулі пры вызваленні раёна, фотапартрэт, асабістыя рэчы, кніга «У паходах і баях» з аўтографам ганаровага грамадзяніна Светлагорска ген. арміі П. І. *Батава* і інш. У экспазіцыі — карціна «Аперацыя «Баграціён» (маст. І. Стасевіч).

*К. М. Несцярэнка, Р. Г. Новік.*

**СВІДЗЕ́РСКІ** Савелій Аляксеевіч 23.4.1905, в. Дзяньгубка Крупскага р-на —13.5.1977), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1930. У Чырв. Арміі з 1927. З 1941 на Паўн.-Зах., Калінінскім, Зах., Цэнтр., Бранскім, 1-м і 2-м Бел. франтах. Полк пад яго камандаваннем вызначыўся 20.4.1945 пры фарсіраванні Одэра. Дзякуючы знаходлівасці і смеласці камандзіра падраздзяленні палка хутка падрыхтавалі сродкі пераправы, паспяхова пераадолелі раку, захапілі плацдарм, адбілі некалькі контратак праціўніка. Да 1953 С. ў Сав. Арміі, палкоўнік.

**СВІДЗІ́НСКІ** Іосіф Вікенцьевіч (н. 14.1.1918, г. п. Бялынічы), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1943. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. На фронце з 1941, разведчык. Вызначыўся ў вер. 1943 у час разведкі абароны праціўніка і падрыхтоўкі да фарсіравання Дняпра ў раёне Кіева. З групай байцоў выявіў у тыле ворага агнявыя кропкі, якія пасля былі заглушаны агнём сав. артылерыі. Жыве ў г. Белаазерск Брэсцкай вобл.

**СВІДЗІ́НСКІ** Уладзімір Іванавіч (8.5.1923, Віцебск — 25.3.1945), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. ВЛКСМ. Скончыў курсы мал. лейтэнантаў (1942). З 1941 на Бранскім, Цэнтр., 3-м Бел., 1-м Укр. франтах. Камандзір стралк. роты лейтэнант С. вызначыўся ў вер. 1943 пры фарсіраванні Дняпра на Пн ад Кіева. Пад агнём праціўніка з групай байцоў пераправіўся цераз раку, захапіў і ўтрымліваў плацдарм для пераправы батальёна. Загінуў у баі. Пахаваны ў Львове. Яго імем названа вуліца ў Віцебску. На з-дзе ў Віцебску, дзе ён працаваў, устаноўлены бюст і мемар. дошка.

**СВІР,** гар. пасёлак у Мядзельскім р-не, на паўн.-зах. беразе воз. Свір. За 45 км на З ад Мядзела, за 26 км ад чыг. ст. Лынтупы на лініі Пабрадзе — Крулеўшчына, звязаны з аўтадарогай Полацк — Вільнюс. У 1940—59 цэнтр раёна. Акупіраваны 25.6.1941 ням.-фаш. захопнікамі, якія за гады акупацыі знішчылі ў С. і раёне 424 чал. На тэр. раёна дзейнічалі Свірскія падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ (28.9.1943—4.7.1944), партыз. брыгады імя Варашылава і 16-я Смаленская, асобны партыз. атрад С. Р. Суслава (гл. адпаведныя артыкулы); выдавалася падп. газ. *«Чырвоны сцяг»*. Партызаны 16-й Смаленскай брыгады і атрада Суслава арганізавалі адначасовае наступленне на С. з усіх бакоў, абышлі дзоты і выйшлі ў тыл ворага, устанавілі таксама кантроль на шашы Полацк — Вільнюс, што садзейнічала наступленню часцей 1-га Прыбалт. фронту, 6.7.1944 вызвалілі С. і ўтрымлівалі да падыходу часцей Чырв. Арміі. *У. М. Якубоўскі.*

**СВІРЫ́Д** Сцяпан Іванавіч (н. 2.8.1913, в. Стаўпішчы Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1939. З 1931 на гасп.

рабоце ў Бабруйскім р-не. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. З чэрв. 1941 на Зах. фронце. У партызанах з снеж. 1941, з крас. 1942 камандзір атрада, у сак.— ліп. 1943 — *партызанскай брыгады 9-й Кіраўскай,* у ліп. 1943 — чэрв. 1944 — *Кіраўскай ваенна-аператыўнай групы,* адначасова чл. Кіраўскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—73 на парт., сав. і прафс. рабоце.

**СВІРЫ́ДАЎ** Уладзімір Пятровіч (7.12.1897, в. Казулічы Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл.— 3.5.1963), ген.-лейтэнант артылерыі (1943). Чл. КПСС з 1926. Скончыў ваен. акадэміі імя Фрунзе (1930), Генштаба (1938). У арміі з 1916, у Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік 1-й сусв. і грамадз. войнаў. У 1931—41 у Ленінградскай, Бел. асобай, Сярэднеазіяцкай ваен. акругах. У Айч. вайну на Паўн., Ленінградскім, 2-м і 3-м Прыбалт. франтах: нач. артылерыі фронту, нач. артылерыі — нам. камандуючага фронтам, камандуючы арміямі. Удзельнік абароны і прарыву блакады Ленінграда, баёў пад Ноўгарадам, Псковам, вызвалення Прыбалтыкі. У 1945—47 нам. старшыні Саюзнай Кантрольнай камісіі ў Венгрыі, у 1949—53 галоўнакамандуючы Цэнтр. групай войск, у 1954—57 нам. камандуючага войскамі Адэскай ваен. акругі. Дэп. ВС СССР у 1950—54.

**СВІСЛАЦКІ РАЁННЫ ГІСТО́РЫКА-КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты 24.8.1979. Матэрыялы пра пачатковы перыяд вайны (зброя, сабраная на месцах баёў, фатаграфія сав. воіна Пруднікава, які загінуў на тэр. раёна ў 1941, і пісьмо яго маці школьнікам г. п. Свіслач, фатаграфіі і ўспаміны воінаў 13-га механіз. корпуса і інш.), узнікненне і разгортванне падполля і партыз. руху ў раёне: фатаграфіі кіраўнікоў і членаў падп. арг-цый у в. Задворанцы, Дабраволя, антыфаш. камітэта ў г. п. Поразава В. Усевіча, М. Урбановіча, В. В. Янушкі, сакратара Свіслацкага падп. РК КП(б)Б А. Г. Шламанава, арганізатараў партыз. руху ў раёне М. М. Болтрыка, А. І. Самуйліка і інш., нач. штаба Беластоцкага партыз. злучэння Героя Сав. Саюза П. П. *Капусты,* камандзіра атрада «Камсамол Беларусі» А. Я. *Андрэева* і інш., рацыя, фатакопія газ. *«Свислочская правда»,* партыз. зброя, дыярама «Засада партызан», фатаграфія камандзіра партыз. групы «Стойкія» К. А. Грудзева і яго кніга «Салдаты партызанскага фронту». Дакументы і матэрыялы расказваюць пра злачынствы ням.-фаш. захопнікаў на тэр. раёна. Экспануюцца матэрыялы аб вызваленні гар. пасёлка і раёна войскамі 3-й арміі 2-га Бел. фронту ў ходзе *Беластоцкай аперацыі 1944* і войскамі 48 і 65-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе *Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944* (фатаграфіі, асабістыя рэчы воінаў-вызваліцеляў, у т. л. Герояў Сав. Саюза М. П. Масонава, І. М. Мяльнова). Асобны стэнд прысвечаны землякам—удзельнікам Вял. Айч. вайны, у т. л. ген.-маёрам І. М. Кудзельку, М. Т. Селяху, І. С. Шмыгу. *М. У. Пакутнік.*

**СВІ́СЛАЧ,** гар. пасёлак, цэнтр Свіслацкага р-на, каля вытоку р. Свіслач (бас. Нёмана). За 102 км на Пд ад Гродна, за 3 км ад чыг. ст. Свіслач (на лініі Ваўкавыск — Свіслач), аўтамаб. дарогамі звязана з Гродна, Ваўкавыскам, Поразавам. У чэрв. 1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў С. і раёне знішчылі 4859 сав. грамадзян. Дзейнічалі раённая антыфаш. арг-цыя, падп. райкомы КП(б)Б (23.10.1943—13.7.1944), *партызанская брыгада імя В. І. Чапаева,* выдавалася падп. газ. *«Свислочская правда».* Вызвалена 17.7.1944 войскамі 82-й стралк. дывізіі (ген.-маёр І. В. Пісараў). У С. чатыры брацкія магілы сав. воінаў, партызан і ахвяр фашызму, на якіх пастаўлены помнікі. Працуе *Свіслацкі раённы гісторыка-краязнаўчы музей.*

**«СВИСЛОЧСКАЯ ПРА́ВДА»,** газета, орган Свіслацкага падп. РК КП(б)Б. Выдома 19 нумароў за 29.10.1943—2.7.1944 на рус. мове. Рэдактары: С. І. Шэлег, І. В. Зазека (з лют. 1944). Пасля вызвалення выходзіла пад наз. «За Родину», з 1962 «Заветы Ильича», орган Свіслацкага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**СВЯРДЛО́Ў** Самуіл Манусавіч (15.10.1903, в. Рожна Лепельскага р-на — 20.2.1973), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Гомельскай вобл. Чл. КПСС з 1928. Скончыў Вышэйшую с.-г. школу Беларусі (1936). З 1928 на прафс. рабоце. З 1938 2-і сакратар Добрушскага, 1-ы сакратар Рагачоўскага РК КП(б)Б. З 15.8.1941 да 6.7.1943 сакратар Рагачоўскага падп. РК КП(б)Б, адначасова ў кастр. 1941 — ліп. 1942 камандзір Рагачоўскага партыз. атрада (гл. ў арт. *Партызанскі полк 255-ы*). З снеж. 1943 сакратар Рагачоўскага, Бярэзінскага РК КП(б)Б, з 1948 на гасп. рабоце, з 1962 дырэктар Рагачоўскага музея нар. славы.

**СВЯ́ТА ПЕРАМО́ГІ,** Дзень Перамогі, усенар. свята ў СССР. Адзначаецца штогод 9 мая (з 1965 — непрацоўны дзень). Устаноўлена Указам Прэзідыума ВС СССР ад 8.5.1945 у азнаменаванне перамогі сав. многанац. народа і яго Узброеных Сіл над фаш. Германіяй у Вял. Айч. вайне 1941—45. Паводле загада Вярх. Галоўнакамандуючага 9.5.1945 у Маскве быў дадзены салют 30 арт. залпамі з тысячы гармат (гл. *Салюты пераможныя*). З таго часу традыцыйна 9 мая аб'яўляецца віншавальны загад міністра абароны СССР, прысвечаны С. П., паводле якога ў сталіцы СССР — горадзе-героі Маскве, сталіцах саюзных рэспублік, гарадах-героях і крэпасці-героі Брэсце, а таксама ў шэрагу інш. спецыяльна ўказаных гарадоў праводзіцца арт. салют (святочны феерверк). У гэты дзень у СССР адбываюцца ўрачыстыя сходы працоўных, сустрэчы з ветэранамі вайны. Да помнікаў баявой славы, мемарыялаў, брацкіх магіл, абеліскаў загінуўшым у баях героям ускладаюцца вянкі і кветкі, выстаўляюцца ганаровыя варты. З 1965 Усесаюзнае радыё і Цэнтр. тэлебачанне праводзяць у С. П. спецыяльную ўрачыстую жалобную перадачу «Мінута маўчання». *П. М. Рыжой.*

У. І. Свідзінскі. У. П. Свірыдаў.



**«СВЯ́ТА ЎРАДЖА́Ю»** («Erntefest»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партызан і мясцовага насельніцтва ў Пухавіцкім, Капыльскім, Грэскім, Слуцкім, Уздзенскім р-нах у студз.— лютым 1943.

Праводзілася ўздоўж размежавальнай лініі вобласці аховы тылу групы армій «Цэнтр» і генеральнай акругі «Беларусь» на У («С. ў.-І») і З («С. ў.-ІІ») ад аўтадарогі Мінск — Слуцк. У аперацыі ўдзельнічалі 13-ы паліцэйскі полк СС (б. паліцэйскі полк «Цэнтр»), батальён СС Дырлевангера, 11 ахоўных і паліцэйскіх батальёнаў, 3 каманды СД у складзе эйнзатцгрупы паліцыі бяспекі і СД генеральнай акругі «Беларусь».

Спроба гітлераўцаў акружыць і знішчыць партыз. фарміраванні правалілася. Умелымі тактычнымі манеўрамі партызаны выйшлі з блакіраваных фашыстамі раёнаў. Гітлераўцы расстралялі ў час аперацыі 4325 чал., вывезлі на катаржныя работы ў Германію больш за 1300 чал., спалілі дзесяткі вёсак, у т. л. Адамова (загубілі 190 чал.), *Гондарава,* Красная Старонка (75 чал.), *Лазараў Бор, Лявішча, Пераходы,* Палікараўка (96 чал.), Руднаўка (54 чал.) Слуцкага р-на, Жавалкі (512 чал.), Калодзезнае (196 чал.), *Масявічы,* Рулёва (22 чал.) Капыльскага р-на і інш. Захапілі і вывезлі больш за 2800 галоў буйной рагатай жывёлы, 1500 авечак, больш за 570 свіней, 390 коней, 438 т збожжа, 20 ц насення лёну і канапель. вял. колькасць сена і саломы, шкур і інш. У сутыкненні з партызанамі гітлераўцы страцілі забітымі і параненымі 23 чал. *У. С. Пасэ.*

**СВЯЦІЛАВІЧЫ,** вёска ў Веткаўскім р-не, на р. Беседзь. За 30 км на

ПнУ ад г. Ветка, аўтадарогамі звязаны з Веткай і Чачэрскам. У 1926—27 і 1935—56 цэнтр Свяцілавіцкага р-на. 19.8.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў С. і раёне 217 чал. У С. і на тэр. раёна дзейнічалі Свяцілавіцкія падп. райкомы КП(б)Б (жн. — 2.10.1943) і ЛКСМБ (3.9—2.10.1943), партыз. брыгады 1-я Гомельская, «Бальшавік», асобны партыз. атрад Свяцілавіцкі (гл. адпаведныя артыкулы). Вясной 1942 створана Чачэрская партыз. зона, у якую ўваходзіў Свяцілавіцкі р-н, у крас.—маі 1942 на тэр. раёна аднавілі работу Навілаўскі, Пакоцкі, Бабінецкі выканкомы сельсаветаў. У лют.—ліп. 1943 у раёне ўзнікла і дзейнічала некалькі падп. камсамольскіх арг-цый. Вызвалены 30.9.1943 воінамі 342-й стралк. дывізіі (палк. Л. Д. Чэрвоні) 3-й арміі Бранскага фронту ў ходзе *Бранскай аперацыі 1943*. У С. брацкія магілы сав. воінаў, сав. воінаў і партызана, на якіх устаноўлены помнікі, помнік землякам. *В. В. Гетаў.*

**СД** (ням. SD, скарочанае ад Sicherheitsdients — служба бяспекі рэйхсфюрэра СС), злачынная тэрарыстычная арг-цыя германскага фашызму, адзін з гал. сродкаў яго палітыкі *генацыду*, паліт. разведка фаш. партыі Германіі.

Створана ў 1931 у рамках СС, узначальвалася Гейдрыхам, пазней Кальтэнбрунерам, саўдзельніца распрацоўкі і ажыццяўлення планаў *«Барбароса»* і *«ОСТ»*. У функцыі СД і паліцыі бяспекі (Sicherheitspolitei, скарочанае ЗІПО) уваходзіла ў першую чаргу выяўленне праціўнікаў фаш. рэжыму, збор звестак пра паліт. становішча і настрой насельніцтва на акупіраваных тэрыторыях, арганізацыя карных аперацый супраць сав. патрыётаў, забеспячэнне выканання прыгавораў, падрыхтоўка і камплектаванне кадраў паліцыі з ліку антысавецкі настроеных асоб і здраднікаў радзімы. Пры СД і паліцыі бяспекі на акупіраванай тэр. СССР створаны 4 («А», «В», «С», «Д») эйнзатцгрупы, якія прыдаваліся камандуючым груп армій і дзейнічалі сумесна з СС, на тэр. Беларусі дзейнічалі эйнзатцгрупы «А» і «В», прыдадзеныя групам армій «Цэнтр» і «Поўнач».

У генеральнай акрузе «Беларусь» паліцыяй бяспекі і СД камандаваў оберштурмбанфюрэр СС урадавы саветнік Штраух. СД і паліцыя бяспекі прымалі ўдзел практычна ва ўсіх карных акцыях і экспедыцыях супраць партызан, падпольшчыкаў і цывільнага насельніцтва Беларусі, на іх рахунку сотні тысяч загубленых сав. грамадзян, сотні спаленых вёсак. Аператыўная група «В», якая ўстанаўлівала «новы парадак» ва ўсх. абласцях Беларусі, у кастр. 1941 паведаміла пра знішчэнне 37 180 чал., у снеж. 1942 колькасць загубленых сав. грамадзян катамі гэтай групы дасягнула 134 298 чал. Аператыўная група «А» з кастр. да студз. 1942 знішчыла на Беларусі 41 828 чал. У 1944 спец. каманды аператыўнай групы «В», каб схаваць жахлівыя злачынствы, правялі з дапамогай вязняў-смертнікаў аперацыю па спальванню трупаў забітых імі ў 1941—43 сав. ваеннапалонных і цывільных асоб, якая атрымала кодавую назву «Метэазводка». *У. С. Пасэ.*

**СЕ́ЙЛАВІЦКІ БОЙ 1943,** бой партыз. атрада імя М. А. Шчорса (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 27-я імя В. І. Чапаева*) і ням.-фаш. захопнікаў у в. Сейлавічы Нясвіжскага р-на 7—8.9.1943.

Знішчэнне добра ўмацаванага гарнізона ў в. Сейлавічы (каля 100 гітлераўцаў) павінна было аблегчыць перадыслакацыю і баявыя рэйды партыз. фарміраванняў у зах. вобл. Беларусі. Вакол гарнізона праціўнікам была створана сістэма дзотаў, бункераў, ліній траншэй з некалькімі радамі калючага дроту, асобныя ўчасткі абароны былі замініраваны.

Аперацыю па разгрому гарнізона ажыццяўляў партыз. атрад імя Шчорса пад камандаваннем А. І. Колчанкі, які налічваў 350 байцоў, якія мелі на ўзбраенні, акрамя вінтовак, 15 ручных кулямётаў, 25 аўтаматаў і 45-міліметровую гармату з абмежаванай колькасцю снарадаў. Поспех бою быў вырашаны правільным выбарам моманту нападу і рашучымі дзеяннямі атрада. Раніцай 7.9.1943 партыз. разведка паведаміла, што 60 гітлераўцаў накіраваліся з в. Сейлавічы ў раён г. п. Гарадзея Нясвіжскага р-на. Вечарам таго ж дня партыз. атрад скрытна выйшаў на паўд. ўзлесак Язвінскага лесу і ў 23 гадзіны з трох напрамкаў атакаваў гарнізон праціўніка. Да гадзіны ночы 8.9.1943 варожы гарнізон быў разбіты. Гітлераўцы страцілі 28 забітымі. Партызаны захапілі зброю, боепрыпасы і без страт арганізавана адышлі.

**СЕ́ЛІШЧА,** вёска на тэр. Акцябрскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1 км на Пд ад в. Курын Ломавіцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 107 чал. У крас. 1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 95 жыхароў, вёску (29 двароў) спалілі, маёмасць разрабавалі. Пасля вайны не адрадзілася. На месцы вёскі пастаўлены мемар. знак. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**СЕ́ЛЬНІЦКА-КРАСНАПО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ,** састаўная частка *Расонскага партыйна-камсамольскага падполля*. Дзейнічала ў в. Сельнікі і Краснаполле Расонскага р-на, да снеж. 1941 пад кіраўніцтвам Расонскага падп. РК КП(б)Б. Аб'ядноўвала 10 чал. Кіраўнік С. І. Голубеў.

Падпольшчыкі распаўсюджвалі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро ў вёсках Сельнікі, Краснаполле, Малое Сітна і інш. Праводзілі дыверсіі: узарвалі наплаўны мост цераз р. Дрыса, знішчылі Краснапольскую валасную ўправу, дзе захапілі падрыхтаваныя гітлераўцамі спісы камуністаў і камсамольцаў, выратавалі іх ад расправы; арганізавалі ўцёкі групы ваеннапалонных з краснапольскага лагера, частка якіх выйшла за лінію фронту, а астатнія пайшлі да партызан. Рыхтуючыся да партыз. барацьбы, збіралі зброю, боепрыпасы, стварылі людскі рэзерв. У маі 1942 большасць падпольшчыкаў пайшла ў партызаны; Голубеў стаў камандзірам партыз. атрада імя В. Я. Лапенкі Расонскай брыгады імя І. В. Сталіна.

У барацьбе супраць ням.-фаш. акупантаў загінулі: С. І. Голубеў, Дз. А. Зуеў, М. А. Ступакоў. Дзейнасць падполля адлюстравана ў *Расонскім музеі баявой садружнасці*. У в. Сельнікі ў 1975 у гонар падпольшчыкаў пастаўлена стэла.

**СЕМЯНЦО́Ў** Міхаіл Іванавіч (26.9. 1917, г. Кіеў — 12.2.1945), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1942. Беларус. Скончыў Адэскую ваен. авіяц. школу пілотаў (1940). На фронце з 1941. Удзельнік баёў у Данбасе, на Каўказе, Курскай дузе, Украіне, Польшчы, Германіі. Нам. камандзіра эскадрыллі знішчальнага авіяпалка ст. лейтэнант С. з чэрв. 1941 да ліп. 1943 зрабіў 270 баявых вылетаў, удзельнічаў у 69 паветр. баях, збіў асабіста 12 самалётаў праціўніка, 9 у групе. Двойчы тараніў варожыя самалёты: у канцы 1942 каля г. Эліста, увосень 1943 пры наступленні на Кіеў. Загінуў у баі. Яго імем названа вуліца ў пас. Ільіч Гомельскага р-на.

**СЕМЯНЮ́К** Іван Іванавіч (15.2.1917, Мінск —26.4.1973), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Батайскую ваен. школу лётчыкаў (1940). З чэрв. 1941 на Паўд., Закаўказскім, Паўн.-Каўказскім, Варонежскім, 1-м Укр. франтах. Камандзір звяна, эскадрыллі, лётчык-знішчальнік. За вайну зрабіў 430 баявых вылетаў, правёў 125 паветр. баёў, збіў асабіста 19 самалётаў праціўніка, 8 у групе. Да 1961 у Сав. Арміі, палкоўнік.

**СЕ́ННЕНСКА-АРША́НСКАЯ ПАРТЫЗА́НСКАЯ ЗО́НА,** тэрыторыя на Пд Віцебскай вобл., у міжрэччы Зах. Дзвіны, Дняпра, Улы, Лукомкі, Бабра, якая кантралявалася партызанамі. Склалася да жн. 1942 як ваен.-паліт. плацдарм для барацьбы з ням.-фаш. акупантамі на чыг. магістралях Барысаў — Орша — Смаленск, Віцебск — Орша і аховы мясцовага насельніцтва ад карнікаў. На тэр. зоны, якая ўключала Аршанскі, Сенненскі, Багушэўскі, Талачынскі р-ны, вялі барацьбу з акупантамі 13 партыз. брыгад, каля 12 тыс. партызан.

Стварэнне партыз. зоны звязана з фарміраваннем і актыўнай баявой дзейнасцю партыз. брыгад імя А. Ф. Данукалава, Багушэўскай, 1-й імя К. С. Заслонава, «Граза», М. П. Гудкова, Сенненскай (гл. адпаведныя артыкулы), спецгруп, якія былі закінуты з Вял. зямлі. Начальнік ваен. зносін групы ням. армій «Цэнтр» 29.8.1942 дакладваў: «...Узмацненне нападзенняў у трохвугольніку Невель — Полацк — Віцебск і Віцебск — Орша —

Смаленск пераўтварыла гэтыя дарогі ў зону ваен. дзеянняў. У выніку стаў немагчымым рэгулярны рух на ўчастку Орша — Смаленск, які з'яўляецца часткай асноўнай чыгуначнай артэрыі фронту... Моцна парушаны рух на ўчастку Барысаў — Орша...». Ужо ў 1942 партыз. фарміраванні, падтрыманыя мясцовымі жыхарамі, сарвалі эканамічныя планы захопнікаў. Паводле прызнання інспекцыі сельскай гаспадаркі групы ням. армій «Цэнтр», пад кантролем партызан да канца 1942 знаходзілася ад 50 да 70 % Аршанскага, Талачынскага і інш. раёнаў. Да вер. 1943 колькасць партыз. фарміраванняў у зоне, якая да гэтага часу займала каля 1500 км², значна павялічылася ў сувязі з перадыслакацыяй сюды Смаленскага партыз. палка, партыз. брыгад 1-й і 16-й Смаленскіх, а таксама з фарміраваннем на тэрыторыі зоны новых партыз. брыгад: 1-й і 2-й Бел. і імя П. К. Панамарэнкі (абедзьве 2-га складу), Лёзненскай, 2-й імя Заслонава (гл. адпаведныя артыкулы). Кіраўніцтва абаронай і ўнутр. жыццём С.-А. п. з. ажыццяўлялі *Беларускі штаб партызанскага руху, Віцебскі падпольны абком КП(б)Б*, Сенненскія, Аршанскія, Багушэўскія, Талачынскія, Дубровенскія падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ. Выдаваліся падп. раённыя газеты. Партыз. фарміраванні зоны цесна ўзаемадзейнічалі з падпольшчыкамі Оршы, Віцебска, пас. Асінторф і інш. У найбольш цяжкія перыяды барацьбы з карнікамі на дапамогу партызанам зоны прыходзілі партыз. фарміраванні *Магілёўскай ваенна-аператыўнай групы.*

Гітлераўцы неаднаразова спрабавалі ліквідаваць зону. У канцы лета 1942 камандаванне групы ням. армій «Цэнтр» вырашыла некалькімі карнымі аперацыямі на працягу месяца ачысціць ад партызан раён паміж Оршай, Віцебскам і Смаленскам. 17 жн. карнікі (дывізія, 3 паліцэйскія палкі, полк вермахта і адзін армейскі корпус) атакавалі партыз. брыгаду Заслонава (гл. *Партызанская брыгада 1-я імя К. С. Заслонава*), атрады «Меч» і «Хуткі», спецатрады Н. В. Сакалова, Ф. Ф. Азміцеля («Грозны»), атрады І. А. Яцыны (гл. *Партызанскі атрад 13-ы*), М. І. Талеркі (гл. ў арт. *Партызанскі полк Смаленскі*), атрад смаленскіх партызан пад камандаваннем М. В. Антоненкава і 2 атрады брыгады К. В. Зюкава, якая фарміравалася (гл. ў арт. *Партызанская брыгада імя А. Ф. Данукалава*), што занялі кругавую абарону на рубяжы р. Альшанка. Тры дні партызаны стрымлівалі націск ворага, потым раптоўнай флангавай контратакай нанеслі праціўніку вялікія страты. На наступны дзень намнога большыя сілы карнікаў адцяснілі партызан у Азёрскі лес і па р. Бабровіца замкнулі кальцо блакады. У ноч на 21 жн. партызаны пад камандаваннем Заслонава прарваліся каля в. Цагельня Руднянскага р-на Смаленскай вобл. і выйшлі да воз. Ардашава ў Сафіеўскі лес, у раён дыслакацыі *партызанскай брыгады Багушэўскай* (гл. ў арт. *«Грыф»*). У пачатку вер. гітлераўцы ўвялі ў бой у раёне Сянна 201-ю ахоўную дывізію. У абарону ўключыліся партыз. брыгады «Чэкіст», «Граза», М. П. Гудкова (гл. ў арт. *«Сава»*). 17 вер. праціўнік пачаў адвод войск з раёна карных аперацый, суправаджаючы адступленне падпалам вёсак, рабаваннем, гвалтам мясцовых жыхароў (гл. ў арт. *«Рысь»*).

У вер.—кастр. 1942 партызаны ўступілі ў бой з карнікамі на паўд.-зах. межах зоны. Асноўны ўдар прынялі на сябе партыз. брыгады «Чэкіст» і 8-я Круглянская паміж Барысавам і Талачыном на Пд ад чыгункі Барысаў — Орша (гл. ў арт. *«Карлсбад»*). У ліст. ў цэнтр. частку зоны ўварвалася новае буйное фарміраванне карнікаў, якое складалі здраднікі Радзімы і гітлераўцы, пераапранутыя ў партыз. і чырвонаармейскую вопратку. Больш за полк пяхоты карнікаў 7.11.1942 пачаў прасоўванне з раёна Смаляны Аршанскага р-на ў напрамку сканцэнтравання брыгады Заслонава. 14 ліст. ў баі з карнікамі ў в. Купаваць Сенненскага р-на загінуў камандзір брыгады Заслонаў (гл. *Купавацкі бой 1942*). Вял. баі з ням.-фаш. акупантамі ў зоне адбыліся ў канцы вер.— кастр. 1943 (гл. ў арт. *«Паляванне на зайцоў», «Паляванне на качак»*). Абарончыя баі ахапілі вялізны раён паміж чыгункай Лепель — Орша і шашой Мінск — Магілёў. Вясной — летам 1944 партыз. фарміраванні адбілі націск праціўніка ў карнай аперацыі *«Прагулка на сёмуху»* і ўтрымлівалі свае пазіцыі на падыходзе да чыгункі Мінск — Орша. Толькі ў пачатку чэрв. 1944 гітлераўцам удалося значна пацясніць партызан (гл. ў арт. *«Баклан»*), аднак выкарыстаць атрыманую перавагу гітлераўцы не паспелі. Пачалася *Беларуская аперацыя 1944*. У памяць аб баявых дзеяннях партыз. фарміраванняў, якія абаранялі зону ад гітлераўцаў, пастаўлены помнікі ў месцах іх базіравання, на брацкіх магілах партызан.

*У. С. Пасэ.*

**СЕ́НЬКІН** Мікалай Уладзіміравіч (22.12.1917, в. Шчыпань Рагнедзінскага р-на Бранскай вобл.— 25.10.1976), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Брэсцкай вобл. Чл. КПСС з 1941. З 1938 у Чырв. Арміі. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У партызанах з вер. 1942: камандзір узвода, нач. штаба атрада, у ліп. 1943 — ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады імя П. К. Панамарэнкі.* З 1944 старшыня Высокаўскага райвыканкома, у Брэсцкім аблвыканкоме.

**СЕРАБРАКО́Ў** Піліп Іванавіч (8.1.1906, в. Целялюй Гразінскага р-на Ліпецкай вобл.— 1984), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай і Баранавіцкай абл. Чл. КПСС з 1931. З 1929 у Чырв. Арміі. У партызанах з лют. 1942: камандзір групы, нам. камандзіра, камандзір атрада, у вер. 1942 — жн. 1943 *партызанскай брыгады 18-й імя М. В. Фрунзе*, з вер. 1943 у Лідскім падп. міжрайпартцэнтры, з кастр. пам. кіраўніка, адначасова чл. штаба Лідскага партыз. злучэння. З кастр. 1944 у Сав. Арміі. З 1955 на з-дзе ў Мінску.



М. І. Семянцоў. І. І. Семянюк.

**СЕРАБРА́НСКАЕ КАМСАМО́ЛЬСКА-МАЛАДЗЁЖНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з 1.9.1941 да 23.12.1943 у в. Серабранка Журавіцкага р-на. Аб'ядноўвала 14. чал. Кіраўнікі: М. А. Дзмітрыеў (да 30.3.1943), Н. І. Лявянкова (да 25.6.1943), М. Ц. Патапенка (да 15.7.1943). Дзейнасць падполля накіроўвалі пакінутыя ў варожым тыле камуністы, з вясны 1943 Журавіцкія падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ. Трымала сувязь з партыз. групай І. М. *Дзікана* (з кастр. 1942), 256-м атрадам *партызанскай брыгады 10-й Журавіцкай.*

Падпольшчыкі здабывалі і перадавалі партызанам зброю, звесткі разведкі пра варожыя гарнізоны ў Гомелі, Бабруйску, Рагачове, Слаўгарадзе, Карме, прадукты, медыкаменты, перавязачны матэрыял, грошы і аблігацыі дзярж. пазык на пабудову танк. калоны «Партызаны Беларусі», удзельнічалі ў дыверсіях, вялі агітацыю сярод насельніцтва, распаўсюджвалі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, сабралі і перадалі партызанам 2 кулямёты, 32 вінтоўкі, 2 пісталеты, 10 тыс. патронаў, 47 гранат, выплавілі 20 кг толу, пераправілі да партызан 400 чал., двойчы сарвалі вываз у Германію жыхароў в. Серабранка. Падпольшчыца К. В. Савельева перадала ў 10-ю Журавіцкую брыгаду шрыфт для выдання партыз. газеты.

У барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі загінулі: І. А. Дварэцкі, І. Ц. Патапенка, М. М. Прохараў.

*Л. Л. Лубянкова.*

**СІДАРО́ВІЧ** Георгій Сцяпанавіч (н. 21.11.1903, Мінск), ген.-палк. танк. войск (1962). Чл. КПСС з 1928. Скончыў ваен. акадэміі матарызацыі і механізацыі (1937), Генштаба (1941). У Чырв. Арміі з 1922. З 1941 нач. штаба асобнай танк. дывізіі, у штабе Гал. бранятанк. ўпраўлення Чырв.

Арміі. З 1944 на 1-м Прыбалт., 1-м і 2-м Бел. франтах, нач. штаба механіз. корпуса, танк. арміі. Удзельнік баёў пад Смаленскам, Сталінградам, Курскай бітвы, вызвалення Кіева, Беларусі, Прыбалтыкі, Усх.-Прускай аперацыі. Пасля вайны да 1975 на адказных пасадах у войсках, цэнтр. апараце Міністэрства абароны, у Дзярж. камітэце СМ СССР па знешніх эканамічных сувязях.

**СІДАРО́К** Рыгор Аляксандравіч (16.11.1902, в. Варацэя, Хойніцкі р-н — 14.6.1963), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1931. Скончыў ВПШ пры ЦК ВКП(б) (1947). З 1934 на парт. і сав. рабоце, з 1940 1-ы сакратар Івянецкага РК КП(б)Б. У 1941 упаўнаважаны ЦК КП(б)Б на Цэнтр. фронце. З сак. 1943 да ліп. 1944 чл. *Баранавіцкага падпольнага абкома КП(б)Б,* у крас.— снеж. 1943 кіраўнік *Івянецкага падпольнага міжрайпартцэнтра,* адначасова ў крас. 1943 — ліп. 1944 камандзір *Івянецкага партызанскага злучэння,* у крас.— ліп. 1944 в. а. камандзіра *Баранавіцкага партызанскага злучэння,* у чэрв. 1943 — ліп. 1944 1-ы сакратар Івянецкага падп. РК КП(б)Б. З 1944 на парт. рабоце ў Беларусі і Літве.

**СІДАРЭ́НКА-САЛДАЦЕ́НКА** Савелій Герасімавіч (2.12.1905, в. Чырвоны Бераг Быхаўскага р-на — 26.10.1980), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на Беларусі. Чл. КПСС з 1928. Скончыў Маскоўскі пед. ін-т імя Леніна, Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1938). З 1927 у Чырв. Арміі, з 1938 нач. штаба дывізіі, пам. нач. аператыўнага аддзела штаба БВА, нач. разведвальнага, аператыўнага аддзелаў штаба арміі. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. У партызанах з жн. 1941, з ліст. 1942 нач. штаба партыз. брыгады 6-й Магілёўскай, з крас. 1943 нач. штаба, у жн. 1943 — чэрв. 1944 камандзір Магілёўскай (абласной) ваенна-аператыўнай групы пры Магілёўскім падп. абкоме КП(б)Б (гл. *Магілёўскае партызанскае злучэнне*), адначасова ў жн. 1943 — чэрв. 1944 чл. Магілёўскага падп. абкома КП(б)Б. З 1944 нам. наркома асветы БССР, у 1946—62 на гасп. рабоце ў Мінску.

**СІКО́РСКІ** Сяргей Іванавіч (11.9.1907, Бабруйск — 28.4.1960), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Брэсцкай вобл. Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1930. Скончыў Вышэйшую камуніст. с.-г. школу Беларусі (1937), ВПШ пры ЦК ВКП(б) (1949). З 1930 на парт. і сав. рабоце. З 1939 сакратар Брэсцкага абкома КП(б)Б. З першых дзён вайны арганізатар партыз. руху на тэр. Віцебскай вобл., з ліст. 1942 упаўнаважаны ЦК КП(б)Б па Брэсцкай вобл., з крас. 1943 сакратар *Брэсцкага падпольнага абкома КП(б)Б,* камандзір *Брэсцкага партызанскага злучэння.* Пасля вайны сакратар Баранавіцкага абкома КП(б)Б, нам. міністра сельскай гаспадаркі БССР, 1-ы сакратар Магілёўскага абкома КПБ, міністр унутр. спраў БССР. Чл. ЦК КПБ з 1952. Дэп. ВС СССР з 1954, ВС БССР у 1951 — 55. Яго імем названы вуліцы ў Бабруйску і Брэсце, Здзітаўская сярэдняя школа ў Бярозаўскім р-не, аўташкола ДТСААФ у Бабруйску.

С. І. Сікорскі.



М. Ф. Сільніцкі.



К. Р. Сінілаў.



Ф. М. Сінічкін.



П. С. Сінчукоў.



М. Д. Сіянін.



**СІЛЬНІЦКІ** Міхаіл Фёдаравіч (20.11. 1921, в. Заполле Віцебскага р-на — 28.3.1942), удзельнік партыз. руху ў Віцебскай вобл. Герой Сав. Саюза (1942). Чл. ВЛКСМ. З чэрв. 1941 у Чырв. Арміі, потым кулямётчык партыз. атрада Д. Ф. Райцава (гл. ў арт. *Партызанская брыгада імя Чырванасцяжнага Ленінскага камсамола).* Вызначыўся ў баі з карнікамі 28.3.1942 каля в. Платы і Курына Віцебскага р-на. Пасля шматгадзіннага бою прыкрываў адыход атрада. Агнём з кулямёта знішчыў дзесяткі гітлераўцаў. Акружаны ворагамі, загінуў у няроўнай рукапашнай схватцы. Пахаваны ў в. Курына; на магіле помнік. 6 партыз. атрадаў Беларусі насілі яго імя. Яго імем названы калгас у Полацкім р-не, Курынская школа, вуліца ў г. п. Сураж. У в. Лужасна Віцебскага р-на яму пастаўлены помнік, у в. Блізніца Полацкага р-на — бюст.

**СІМАКО́ЎСКАЕ КАМСАМО́ЛЬСКА-МАЛАДЗЁЖНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала ў в. Сімакі Багушэўскага р-на з ліп. 1941 да вер. 1943. Кіраўнікі А. А. Нахаеў (да чэрв. 1943) і А. Н. Ляхоўская. Спачатку падпольшчыкі збіралі зброю, наладжвалі сувязь з дэсантнымі групамі, распаўсюджвалі сярод насельніцтва зводкі Саўінфармбюро. Пасля ўстанаўлення ў чэрв. 1942 сувязі з *партызанскай брыгадай імя А. Ф. Данукалава* дзейнасць падполля накіроўвалася камандаваннем брыгады і кіраўнікамі *Віцебскага партыйна-камсамольскага падполля.* Падпольшчыкі перадавалі партызанам зброю, забяспечвалі іх харчамі. Калі навісла пагроза арышту, большасць падпольшчыкаў пайшла ў партызаны. У барацьбе з ням.-фаш. акупантамі загінулі М. А. і Р. Ф. Грышанавы, А. Н. Ляхоўская, Б. І. Уткін.

*А. С. Панамарова.*

**СІМА́ЦКІ** Уладзімір Уладзіміравіч [1913, г. п. Асвея Асвейскага (цяпер Верхнядзвінскі) р-на — 17.10.1942], адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Асвейскага р-на. Чл. КПСС з 1939. Перад вайной працаваў заг. фінаддзела Асвейскага райвыканкома. З чэрв. 1941 на фронце. Паранены, у жн. 1941 вярнуўся ў Асвею. Стварыў і ўзначаліў *Асвейскае партыйна-патрыятычнае падполле,* з 27.6.1942 чл. Асвейскага падп. РК КП(б)Б. Удзельнічаў у стварэнні партыз. атрада імя Фрунзе, з ліп. 1942 камандзір атрада імя Жданава (гл. ў арт. *Партызанская брыгада Асвейская імя М. В. Фрунзе).* Загінуў пры разгроме варожага гарнізона ў в. Забор'е Латвійскай ССР. Пахаваны ў Асвеі, на магіле пастаўлена стэла. Імя С. было прысвоена партыз. атраду. Яго імем названы саўгас у Верхнядзвінскім р-не і вуліца ў Асвеі.

**СІНІ КА́МЕНЬ,** вёска на тэр. Гродзенскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 4 км на ПнУ ад в. Бандары Скідзельскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 87 чал. 18.7.1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 50 жыхароў, у т. л. 19 дзяцей, вёску (17 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. На месцы вёскі

ўстаноўлены помнік. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**СІНІЛАЎ** Кузьма Раманавіч (14.5.1902, в. Бывалькі Лоеўскага р-на — 31.12.1957), ген.-лейт. (1944). Чл. КПСС з 1920. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1936). У Чырв. Арміі і войсках НКУС з 1919. Удзельнік грамадз. вайны, баёў на Усх.-Кітайскай чыгунцы (1929), сав.-фінл. вайны 1939—40. З чэрв. 1941 нач. упраўлення пагранвойск Мурманскай акругі, камандзір дывізіі войск НКУС. З кастр. 1941 да 1953 камендант Масквы, з 1953 нач. ваен. кафедры ін-та.

**СІНІЧКІН** Фёдар Міхайлавіч (27.12.1901, с. Гаўрылаўка Аляксееўскага р-на Куйбышаўскай вобл. — 17.7.1962), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1926. У Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ленінградскую пях. школу (1928). У Айч. вайну ў жн. 1941 арганізаваў партыз. групу ў Налібоцкай пушчы. З снеж. 1942 да мая 1943 і з снеж. 1943 да чэрв. 1944 камандзір *партызанскай брыгады Ленінскай*. У чэрв.—кастр. 1943 камандзір *партызанскай брыгады імя С. М. Кірава*. З 1945 на сав. рабоце. Яго імем названы вуліца і завулак у Слоніме.

**СІНКЕ́ВІЦКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1942,** баі партыз. атрадаў імя М. Ц. Шыша (гл. ў арт. *Партызанская брыгада імя В. М. Молатава*), «Пятровіча» (гл. ў арт. *Партызанская брыгада імя С. М. Кірава* Пінскай вобл.) і ням.-фаш. захопнікаў у в. Сінкевічы Лунінскага р-на і на чыг. ст. Сінкевічы 30.10.1942.

З мэтай зрыву руху наяздоў па чыгунцы Брэст—Гомель штаб *Пінскага партызанскага злучэння* да 25-годдзя Кастрычніка распрацаваў план аперацый па адначасовым разгроме варожага гарнізона ў вёсцы і на чыг. ст. Сінкевічы і падрыву 70-метровага чыг. моста цераз р. Лань. Аперацыяй кіравалі камандзіры атрадаў «Пятровіча» А. П. *Савіцкі* і імя Шыша М. І. *Герасімаў*. Партыз. разведка ўстанавіла колькасць і ўзбраенне гарнізона праціўніка ў вёсцы, аховы станцыі і моста (больш за 100 гітлераўцаў, узброеных станковымі і 5 ручнымі кулямётамі, аўтаматамі і вінтоўкамі), што вёска і чыг. станцыя ўмацаваны дзотамі. Для ўдзелу ў аперацыі выдзелена каля 200 партызан, узброеных 11 ручнымі кулямётамі, 12 аўтаматамі, вінтоўкамі. Каб не дапусціць падыходу падмацавання з бліжэйшых гарнізонаў праціўніка, групы прыкрыцця вывелі са строю тэлефонна-тэлеграфную лінію сувязі, грунтавыя дарогі, чыгунку. Астатнія групы павінны былі нанесці адначасовы ўдар па гарнізоне ў вёсцы, ахове моста і ўзарваць яго.

На досвітку 30.10.1942 ударныя групы напалі на паліцэйскі ўчастак, будынак камендатуры і ахову лесапільнага з-да, якія знаходзіліся ў в. Сінкевічы, падпалілі іх і хутка падавілі супраціўленне гітлераўцаў. Знішчыўшы праціўніка на станцыі, партызаны падпалілі састаў з боепрыпасамі. Узрывамі бомбаў і снарадаў падпаленага эшалона быў знішчаны будынак станцыі, уся станцыйная гаспадарка і чыг. палатно. Ахова моста спрабавала адысці па балоне ў бок р. Прыпяць, але трапіла пад агонь партызан і была знішчана. Партызаны авалодалі чыг. мостам, замініравалі яго і падарвалі. Групы прыкрыцця адбілі падраздзяленні праціўніка, якія спяшаліся на дапамогу гарнізону са ст. Лахва і в. Сітніца. У ходзе гадзіннага бою былі падарваны масты чыгуначны цераз р. Лань, 2 інш. чыг. масты (даўжынёй 10 і 14 м), 4 на грунтовых дарогах, знішчана 3 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі сувязі, спалены эшалон з боепрыпасамі, лесапільны і малочны з-ды, будынкі станцыі і акупацыйных улад. У выніку аперацыі рух па чыгунцы быў спынены на доўгі час. Страты праціўніка: 74 забітыя, 14 параненых і 6 узяты ў палон. Партызаны страцілі 3 забітымі і 4 параненымі. У памяць аб баявых дзеяннях партызан у 1963 на будынку ст. Сінкевічы ўстаноўлена мемарыяльная дошка. *М. У. Філімоненкаў.*

**СІНЧУКО́Ў** Пётр Сідаравіч (н. 11.7.1920, Гомель), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1944. Скончыў Тамбоўскую ваен. авіяц. школу пілотаў (1943), Ваен.-паветр. інж. акадэмію імя Жукоўскага (1954). На фронце з 1943. Удзельнік вызвалення Украіны, Беларусі, Літвы, баёў ва Усх. Прусіі. Камандзір звяна штурмавога авіяпалка ст. лейтэнант С. зрабіў 163 баявыя вылеты, знішчыў 7 танкаў, 10 арт. і мінамётных батарэй, 17 кропак зенітнай артылерыі, 19 аўтамашын, шмат жывой сілы ворага. Да 1956 у Сав. Арміі, капітан.

**СІНЯКО́Ў** Рыгор Іванавіч (6.5.1903, в. Латыгаўка Талачынскага р-на — 29.3.1969), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Гомельскай вобл. Чл. КПСС з 1931. Скончыў Мінскі юрыдычны ін-т (1939). З 1929 на юрыдычнай рабоце ў Віцебскай і Гомельскай абл. З 1938 сакратар Лоеўскага РК КП(б)Б. У партызанах з жн. 1941: камісар, з ліп. 1942 камандзір атрада, у ліп.— ліст. 1943 камандзір *партызанскай брыгады Лоеўскай «За Радзіму»*, адначасова ў жн. 1941 — ліст. 1943 сакратар Лоеўскага падп. РК КП(б)Б. З ліст. 1943 да 1945 сакратар Лоеўскага РК КП(б)Б, потым у органах юстыцыі ў Гомельскай вобл. Яго імем названа вуліца ў г. п. Лоеў.

**СІПКО́** Антон Уладзіміравіч (студз. 1909, в. Шодзікі Шумілінскага р-на — 29.9.1951), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1937. З 1932 на сав. рабоце ў Сіроцінскім р-не, з 1937 старшыня райвыканкома. У жн. 1941 накіраваны ЦК КП(б)Б у тыл ворага, з кастр. ў партызанах: з чэрв. 1942 камісар атрада, у лютым 1943 — ліп. 1944— *партызанскай брыгады імя У. І. Леніна*, адначасова з кастр. 1941 чл., у сак. 1943 — ліп. 1944 сакратар Сіроцінскага падп. РК КП(б)Б. Пасля вайны старшыня Сіроцінскага райвыканкома. Дэп. ВС БССР з 1947. Яго імем названа вуліца ў г. п. Шуміліна, імя С. нададзена калгасу ў Шумілінскім р-не.

**СІ́ТНІЦА** Віктар Васілевіч (1927, в. Курыцічы Петрыкаўскага р-на — май 1944), удзельнік партыз. руху ў Палескай вобл. У партызанах з ліп. 1942: разведчык атрада А. Р. Волкава, з жн. 1943 падрыўнік атрада 78-га дыверсійнага партыз. брыгады 125-й Капаткевіцкай. Пусціў пад адхон 9 варожых эшалонаў з жывой сілай і тэхнікай. У маі 1944 схоплены гітлераўцамі і закатаваны. Яго імем названы цеплаход Далёкаўсх. марскога параходства, сярэдняя школа на радзіме.

**СІЯ́НІН** Міхаіл Данілавіч (17.12.1901, в. Забалацце Аршанскага р-на — 1.10.1973), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1920. У Чырв. Арміі з 1920. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Вышэйшую кав. школу (1927), Ваен. акадэмію Генштаба (1941). На фронце з ліст. 1941. Удзельнік бітвы пад Масквой. Механізаваная брыгада пад камандаваннем палк. С. вызначылася ў бітве за Днепро каля в. Вял. Букрын на ПдУ ад Кіева. 22.9.1943 фарсіравала раку і захапіла плацдарм.




Помнік М. Ф. Сільніцкаму каля шашы Віцебск — Ленінград каля павароту на в. Лужасна Віцебскага р-на.

Удзельнік баёў на Дукельскім перавале ў Чэхаславакіі. Пасля вайны на адм. рабоце. Яго імем названа вуліца ў Оршы.

**СКАВАРАДА́** Аляксандр Цімафеевіч (1892, Гродна — 1942), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт.-камсам. падполля ў Оршы. Чл. КПСС з 1930. У 1919—22 у Чырв. Арміі, удзельнік грамадз. вайны. З 1933 інструктар Аршанскага РК КП(б)Б, з 1939 на парт. рабоце ў Зах. Беларусі. У пачатку Айч. вайны прыбыў у Оршу, удзельнічаў у стварэнні падполля. З 16.7.1941 чл. Аршанскага падп. парт. цэнтра, з жн. сакратар падп. парт. арг-цыі ў горадзе, адзін з кіраўнікоў *Аршанскага партыйна-камсамольскага падполля*, правёў вял. работу па стварэнні і разгортванні дзейнасці падп. арг-цый і груп. У крас. 1942 схоплены гітлераўцамі і расстраляны. У Оршы на доме, дзе была яго явачная кватэра, у 1975 устаноўлена мемар. дошка.

**СКАЛАБА́Н** Іван Васілевіч (вер. 1910, в. Крывічы Салігорскага р-на — крас. 1944), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Палескай вобл. Чл. КПСС з 1939. З 1931 на пед. і парт. рабоце ў Старобінскім р-не. З сак. 1942 у варожым тыле, у студз.— ліп. 1943 камісар *партызанскай брыгады 125-й Капаткевіцкай*, у ліп. 1943 — сак. 1944 камандзір *партызанскай брыгады 130-й Петрыкаўскай*, адначасова ў крас. 1943 — крас. 1944 сакратар Петрыкаўскага падп. РК КП(б)Б, з кастр. 1943 чл. Палескага падп. абкома КП(б)Б. Загінуў у баі.

**СКІ́ДЗЕЛЬ**, горад у Гродзенскім р-не, на р. Скідзелька. За 27 км на У ад Гродна, 4 км ад чыг. ст. Скідзель (на лініі Гродна — Масты), на аўтадарозе Гродна—Ліда. У 1940—74 гар. пасёлак, цэнтр раёна (да 1962). 27.6.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў створаным тут лагеры смерці знішчылі 2330 чал., а ўсяго ў С. і раёне загубілі 9405 сав. грамадзян. У С. і на тэр. раёна дзейнічалі *Скідзельская раённая антыфашысцкая арганізацыя, Скідзельскае камсамольска-маладзёжнае падполле*, Скідзельскія падп. райкомы КП(б)Б (28.11.1943—13.7.1944) і ЛКСМБ (1.9.1943—26.7.1944), *партызанская брыгада імя Аляксандра Неўскага, партызанскі атрад «Баявы» імя Дунаева*; выдавалася падп. газ. *«Краснае знамя»*. Вызвалены 14.7.1944 воінамі 238-й стралк. дывізіі (камандзір ген.-маёр І. Д. Краснаштанаў) 121-га стралк. корпуса 50-й арміі і 23-й танк. брыгады (палк. К. І. Бойка) 9-га танк. корпуса 3-й арміі 2-га Бел. фронту ў выніку *Беластоцкай аперацыі 1944*. У С. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, магілы ахвяр фашызму, камсамольцаў-падпольшчыкаў, на якіх пастаўлены помнікі; помнік камсамольцам-падпольшчыкам.

*Н. У. Капранава.*

**СКІ́ДЗЕЛЬСКАЕ КАМСАМО́ЛЬСКА-МАЛАДЗЁЖНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з вер. 1941 да ліп. 1944 у г. Скідзель і Скідзельскім р-не пад кіраўніцтвам Скідзельскага раённага антыфаш. к-та (гл. ў арт. *Скідзельская раённая антыфашысцкая арганізацыя*), Скідзельскага падп. РК ЛКСМБ (з вер. 1943), Скідзельскага падп. РК КП(б)Б (з ліст. 1943). Складалася з падп. арг-цый і груп, створаных па ініцыятыве камуністаў, б. членаў КПЗБ і КСМЗБ, сав. актывістаў У. С. Кізевіча, А. Ф. Манкевіча, А. Я. Мажэйкі, А. А. Патапава, В. А. Сытага, І. А. Шчаснага, С. І. Таранкі і інш. Адна з першых на акупіраванай тэр. зах. абласцей Беларусі падп. камсамольская арг-цыя. У яе кіруючае ядро ўваходзілі М. С. Дзелянкоўскі, А. І. Зелянкоўскі, Кізевіч, Ф. І. Макарчук, А. К. Ролік, І. А. Сеўрук, І. М. Сініца, Шчасны. Праз антыфаш. групы, якія дзейнічалі ў Скідзелі, вёсках Кашубінцы, Княжаводцы, Лаўна, Хвайняны, Чарлёны, члены камсам. арг-цыі ўцягвалі ў падп. барацьбу моладзь.

Падпольшчыкі распаўсюджвалі напісаныя імі лістоўкі, якія заклікалі ўключацца ў барацьбу з захопнікамі і не выконваць распараджэнні фаш. улад, збіралі зброю і боепрыпасы, забяспечвалі партызан харчамі, адзеннем, абуткам, медыкаментамі, паведамлялі ім звесткі аб колькасці і стане гарнізонаў і апорных пунктаў праціўніка, руху варожых падраздзяленняў па чыгунках і шашэйных дарогах, палілі нарабаванае акупантамі зерне і сена. Вясной 1942 яны перадалі партызанам 3 кулямёты, 5 вінтовак, 2 пісталеты, 3 скрынкі патронаў, гранаты.

Выкарыстоўваючы разведданясенні, перададзеныя скідзельскімі камсамольцамі, паспяховыя баявыя аперацыі ў 1942 праводзілі партыз. групы А. І. Іванова і Г. М. Картухіна. У ліп. 1942 Кізевіч і Шчасны ўдзельнічалі ў баявой аперацыі партызан па разгроме варожага гарнізона ў в. Азёры. 4.9.1942 актыў арг-цыі арыштаваны, пасля катаванняў 13 вер. павешаны 8 камсамольцаў. Нягледзячы на рэпрэсіі акупантаў, падполле працягвала барацьбу, якая значна актывізавалася пасля стварэння Скідзельскіх падп. райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ. Паліт. і баявую работу вялі камсамольцы, якія ўваходзілі ў састаў антыфаш. груп у Скідзелі, Бондарах, Крушніках і інш. насел. пунктах раёна. Яны распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, звароты і лістоўкі парт. органаў, выконвалі заданні партыз. атрада імя Ленінскага камсамола і брыгады імя Аляксандра Неўскага Беластоцкай вобл., удзельнічалі ў дыверсійных актах на варожых лініях сувязі, чыгунках і шашэйных дарогах Гродна — Скідзель— Ліда, Гродна — Азёры — Вільнюс, Слонім — Ваўкавыск — Скідзель. У барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў загінулі М. М. Багушэўскі, Г. А. Бухоўка, М. С. Дзелянкоўскі, А. І. Зелянкоўскі, У. С. Кізевіч, Ф. І. Макарчук, А. Я. Мажэйка, А. К. Ролік, І. А. Сеўрук, І. М. Сініца, І. А. Шчасны, П. І. Тупіца, К. І. *Чычкова.* 8 скідзельскіх камсамольцаў-падпольшчыкаў у 1965 узнаг. ордэнамі Айч. вайны II ступені пасмяротна. У Скідзелі ў 1966 ім пастаўлены помнік, на магілах — абеліскі.

*Л. В. Аржаева.*

**СКІ́ДЗЕЛЬСКАЯ РАЁННАЯ АНТЫФАШЫСЦКАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ.** Дзейнічала з ліст. 1942 да ліп. 1944 у г. Скідзелі і Скідзельскім р-не пад кіраўніцтвам Скідзельскага раённага антыфаш. к-та, з ліст. 1943— Скідзельскага падп. РК КП(б)Б і Беластоцкага абл. антыфаш. к-та. Аб'ядноўвала каля 90 чал. Створана на базе антыфаш. груп, арганізаваных па ініцыятыве камуністаў, камсамольцаў, былых членаў КПЗБ, мясцовых актывістаў, ваеннаслужачых. Дзейсны ўдзел у стварэнні першых падп. груп у раёне прымалі былы чл. КПЗБ работнік райвыканкома А. Ф. Манкевіч, супрацоўнік міліцыі камсамолец А. Я. Мажэйка, былы чл. КПЗБ В. А. Сыты, настаўнік С. І. Таранка, інжынер А. А. Патапаў і інш. Восенню 1941 афарміліся і прыступілі да работы антыфаш. групы ў Скідзелі, у в. Бондары, Крушнікі і інш. У цесным кантакце з імі дзейнічала адна з першых падп. арг-цый ЛКСМБ у Беластоцкай вобл.— *Скідзельскае камсамольска-маладзёжнае падполле.* Трывалая сувязь падтрымлівалася і з групамі *Баранавіцкай акруговай антыфашысцкай арганізацыі*, асабліва ў перыяд з мая да ліст. 1942, калі антыфаш. групы Скідзельскага р-на ўваходзілі ў састаў гэтай арг-цыі і дзейнічалі пад кіраўніцтвам яе к-та. Да восені 1942 антыфаш. групы Скідзельскага р-на колькасна выраслі і ўзмацнелі. У ліст. 1942 створаны цэнтр па кіраўніцтве іх арганізатарскай, паліт. і баявой дзейнасцю — Скідзельскі раённы антыфаш. к-т. У яго ўвайшлі М. М. Бедыс, І. С. Быль, Манкевіч. Групы, якія ўваходзілі ў раённую арг-цыю, узначалілі Бедыс, Л. І. Зарко, С. І. Кемяжук, Манкевіч, Сыты, В. І. і С. І. Таранкі, А. Р. Ушкевіч, М. М. Чаравач.

Падпольшчыкі вялі сярод насельніцтва паліт. работу, распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі, выкрывалі лжывую фаш. прапаганду, ратавалі сав. воінаў, якія трапілі ў акружэнне, хавалі і лячылі параненых байцоў, забяспечвалі іх харчамі, адзеннем, абуткам, перапраўлялі ў партыз. атрады, збіралі і перадавалі партызанам зброю, боепрыпасы, медыкаменты, разведданыя аб дзеяннях акупантаў, рабілі дыверсіі на чыг. участках Скідзель—Ліда, Чарлёна—Масты, Парэчча — Марцінконіс, парушалі тэлефонна-тэлеграфную сувязь праціўніка. Летам 1942 падпольшчыкі в. Бондары зрабілі напад на паліцэйскія пасты ў в. Суша і Карашава, антыфашысты Скідзеля спалілі 2 спіртзаводы. Восенню

1942 падпольшчыкі арганізавалі масавыя падпалы запасаў зерня, нарыхтаванага гітлераўцамі для сваёй арміі. Былі знішчаны хлебныя свірны і неабмалочанае зерне ў ням. маёнтках, якія знаходзіліся ў в. Губінка, Кашубінцы, Пруды, Хвайняны і інш. Скідзельскія антыфашысты ўдзельнічалі ў разгроме варожага гарнізона ў в. Азёры (ліп. 1942), знішчэнні падраздзялення фаш. палявой жандармерыі, якое рухалася на 2 аўтамашынах у суправаджэнні матацыклістаў у в. Вастрыно, і інш. аперацыях партызан.

У барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў загінулі: Н. М. Бедыс, В. М. і М. М. Багушэўскія, Г. А. і А. Г. Бухоўкі, М. К. Дарашкевіч, В. П. і П. П. Курылы, І. С. Ласевіч, Дз. М. Лойша, С. М. Лук'янчык, А. Я. Маркевіч, А. Я. Мажэйка, В. Ф. Самойла, М. І. Сяўко, М. А. Сыты, І. М. і С. М. Таранкі, П. І. Тупіца, М. М. Чаравач.

*Л. В. Аржаева, П. П. Ліпіла.*

**СКЛЕ́МІН** Павел Аляксандравіч (2.6.1902, с. Пятрова-Дальняе Краснагорскага р-на Маскоўскай вобл.— 1.2.1982), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1932. З 1925 на гасп. і сав. рабоце. З жн. 1941 на фронце. У партызанах з сак. 1942: з чэрв. камісар атрада, у снеж. 1943— ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады імя В. І. Чапаева,* адначасова ў студз.— ліп. 1944 2-і сакратар, сакратар Навагрудскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—62 на сав. і гасп. рабоце ў Баранавіцкай і Маскоўскай абл.

**СКЛЯ́РАЎ** Максім Гаўрылавіч (21.1.1914, слабада Мальчэўка Мілераўскага р-на Растоўскай вобл.— 23.11.1958), Герой Сав. Саюза (1944), ген.-маёр авіяцыі (1953). Чл. КПСС з 1938. Скончыў Варашылаўградскую школу пілотаў (1936), Ваен.-паліт. акадэмію (1941), Ваен. акадэмію Генштаба (1953). З 1941 на Зах., Паўд.-Зах., Данскім, Сталінградскім, Цэнтр., Бел., 1-м Бел. франтах. Камандзір штурмавога авіяпалка падпалкоўнік С. вызначыўся пры вызваленні Беларусі ў 1943—44. Увосень авіяполк пад яго камандаваннем у *бітве за Днепр 1943* забяспечыў сав. наземным войскам магчымасць замацавацца і расшырыць плацдарм. За гады вайны С. зрабіў 109 баявых вылетаў, збіў 1 самалёт асабіста і 11 у складзе групы. Пасля вайны ў Сав. Арміі.

**СКРЫГА́НАЎ** Вікенцій Васілевіч (22.6.1903, в. Надзейкавічы Рагачоўскага р-на — 26.1.1945), ген.-маёр (1944). Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1925. У Чырв. Арміі з 1920. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1938). З 1942 на Зах., Паўд., Закаўказскім, Паўн. Каўказскім, Паўд.-Зах., 3-м, 2-м і 1-м Укр. франтах. Пад яго камандаваннем гв. стралк. дывізія ў студз. 1945 прарвала абарону праціўніка на З ад Сандаміра, прычыніла ворагу вял. страты ў жывой сіле і баявой тэхніцы; за 11 дзён прайшла з баямі 264 км, фарсіравала Одэр. Памёр ад ран. Пахаваны ў Львове. Яго імем названы вуліцы ў Мінску і на яго радзіме.

**СКРЫ́ННІК** Іван Несцеравіч (кастр. 1920, с. Аляксандраўка Сямёнаўскага р-на Чарнігаўскай вобл.— 25.7.1944), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсам.-маладзёжнага падполля і партыз. руху на тэр. Віцебскай і Беластоцкай абл. Чл. КПСС з 1942. Скончыў Ноўгарад-Северскае пед. вучылішча (1938), ваен.-паліт. вучылішча (1942). На фронце з сак. 1942, палітрук роты. З чэрв. 1942 пам. камісара па камсам. рабоце партыз. брыгады «Аляксея» (гл. *Партызанская брыгада імя А. Ф. Данукалава).* У студз.— чэрв. 1943 вучыўся ў *«Беларускай школе»,* з ліп. 1943 пам. упаўнаважанага ЦК ЛКСМБ у Беластоцкай вобл. Пад яго кіраўніцтвам створана каля 50 маладзёжных антыфаш. груп і 21 падп. камсамольская арг-цыя. Чл. Лёзненскага падп. РК ЛКСМБ з 1.8.1942 да 1.1.1943, чл. *Беластоцкага падпольнага абкома ЛКСМБ* з 1.8.1943 да 1.7.1944, адначасова сакратар *Беластоцкага падпольнага гаркома ЛКСМБ.* Пасля вызвалення Гродзенскай вобл. ў Чырв. Арміі. Загінуў у баі. Яго імем названа вуліца ў Гродне.

**СКРЫ́ПШЧЫНА,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1,5 км на Пд ад в. Рагелева Сенькаўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 53 чал. У сак. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 42 жыхары, вёску (11 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1982 на яе месцы пастаўлены памятны знак. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**СКУГА́Р** Уладзімір Антонавіч (н. 15.7.1914, в. Жабыкі Касцюковіцкага р-на), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1940. Скончыў Ейскае ваенна-марское авіяц. вучылішча (1938), Ваен.-марскую акадэмію (1955). На фронце з 1941. Удзельнік абароны Адэсы, Севастопаля, Паўн. Каўказа. Нам. камандзіра эскадрыллі капітан С. да студз. 1944 зрабіў 295 баявых вылетаў на далёкую паветр. разведку партоў, аэрадромаў, марскіх камунікацый праціўніка. Да 1961 у ВМФ, палкоўнік. Да 1978 у грамадз. авіяцыі.

**СЛАБАДА́,** вёска на тэр. Лагойскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1,5 км па ПдЗ ад в. Засоўе Задор'еўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 217 чал. 23.5.1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 204 жыхароў, вёску (42 двары) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. На яе месцы пастаўлены мемар. знак. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**СЛА́ЎГАРАД** (да 23.5.1945 Прапойск), горад, цэнтр Слаўгарадскага р-на, прыстань на правым беразе р. Сож пры ўпадзенні ў яго р. Проня. За 68 км на ПдУ ад Магілёва, за 58 км ад чыг. ст. Крычаў, на аўтадарозе Бабруйск—Крычаў. З 1924 цэнтр раёна, у 1938—45 гар. пасёлак. 4,7 тыс. жыхароў у 1939. У сярэдзіне ліп. 1941 у раёне Прапойска разгарнуліся жорсткія баі. 15.7.1941 у Прапойск


В. В. Скрыганаў. У. А. Скугар.

уварваліся часці 4-й ням. танк. дывізіі групы ген. Гудэрыяна. Камандуючы Зах. фронтам маршал С. К. *Цімашэнка* загадаў в. а. камандуючага 4-й арміяй палк. Л. М. *Сандалаву* вызваліць Прапойск. У наступленні з Пд удзельнічалі часці 55-й стралк. дывізіі (палк. Г. А. Тэр-Гаспаран) і 219-й матарызаванай дывізіі (ген.-маёр П. П. *Корзун*). З Пн у напрамку Прапойска нанеслі ўдар часці 20-га стралк. корпуса (ген.-маёр С. І. Яромін), якія выходзілі з акружэння. Упартыя баі вяліся днём і ноччу, Прапойск неаднаразова пераходзіў з рук у рукі. Утрымаць яго сав. войскам не ўдалося, але яны вымусілі праціўніка часова спыніць наступленне і перайсці да абароны на рубяжы р. Сож ад Крычава да Прапойска. У час штурму варожых умацаванняў на паўн. беразе Сожа смяротна паранены ген.-маёр Яромін. У гэтым жа баі загінуў ген.-маёр П. М. Ахлюсцін, камандзір 13-га механіз. корпуса. Паранены, ён прайшоў з баямі 500 км ад зах. граніцы па акупіраванай ворагам тэрыторыі, вывеў зводны атрад, сфарміраваны з часцей свайго корпуса, да Сажа ў раёне Прапойска. За гады акупацыі ням.-фаш. захопнікі знішчылі ў гар. пасёлку і раёне 2 тыс. жыхароў. На тэр. раёна дзейнічалі Прапойскія падп. райкомы КП(б)Б (12.8.1943— 1.10.1943) і ЛКСМБ (1.6.1943— 1.10.1943), партыз. брыгады 17-я, 13-я Касцюковіцкая, партыз. полк «Трынаццаць», асобныя партыз. атрады 2-і, 15-ы, 41-ы, 42-і, 43-і, 48-ы Прапойскі, І. А. Стэфаненкі (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«За Советскую Родину».* Вызвалены 25.11.1943 воінамі 362-й стралк. дывізіі (ген.-маёр В. М. Дал-

матаў) 3-й арміі Бел фронту ў ходзе *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943*. У С. 4 брацкія магілы сав. воінаў, на якіх пастаўлены помнікі і абеліскі. *У. М. Якубоўскі.*

**СЛА́ЎНЕНСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ** 1942, бой партыз. атрадаў «Аб'яднанне атрадаў «Дзядзькі Сашы» (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 8-я Круглянская)* і ням.-фаш. захопнікаў на чыг. ст. Слаўнае на лініі Мінск— Орша 28.8.1942.

Чыг. ст. Слаўнае была важным пунктам для забеспячэння войск і транспарту праціўніка, хуткай перакідкі эшалонаў да фронту, а таксама для папаўнення запасаў вады для паяздоў, якія праходзілі па магістралі Брэст—Мінск—Смаленск. Гарнізон, які ахоўваў ст. Слаўнае, налічваў каля 200 гітлераўцаў, узброеных батальённым мінамётам, станковым і 10—12 ручнымі кулямётамі, аўтаматамі і вінтоўкамі, быў умацаваны акопнымі збудаваннямі, меў каля 10 пастоў аховы. У аперацыі ўдзельнічалі атрады С. Г. *Жуніна* («Сяргей»), Дз. А. Кулікова, Г. С. Місніка пад агульным кіраўніцтвам Жуніна.

Падрыхтоўка да аперацыі пачалася 25 жніўня: мінёры рыхтавалі зарады для падрыву мастоў, пуцей і пуцявой гаспадаркі, разведчыкі ўдакладнялі атрыманыя раней звесткі аб сілах і размяшчэнні праціўніка, шляхах падыходу і адыходу, партызаны падрыхтавалі інструменты і прыстасаванні для разборкі чыг. палатна. Каля 300 чал. баявога рэзерву атрадаў з піламі, сякерамі і лапатамі прыцягваліся да ўдзелу ў аперацыі па разбурэнні чыг. палатна і знішчэнні тэлефонна-тэлеграфнай лініі сувязі. У 1 гадзіну ночы 28.8.1942 групы прыкрыцця (атрады Місніка і Кулікова) падарвалі масты і чыг. палатно з З і У ад станцыі, каб перашкодзіць праціўніку хутка падкінуць падмацаванне. Асноўны ўдар па гарнізону нанесці атрад Жуніна, які пад прыкрыццём арт. і мінамётнага агню перайшоў у наступленне. У ходзе 3-гадзіннага бою гарнізон праціўніка быў разбіты. Партызаны знішчылі будынак станцыі, 6 складоў з ваен. маёмасцю, харчаваннем і фуражом, казармы гітлераўцаў, будынак валаснога ўпраўлення, 2 вайсковыя эшалоны з тэхнікай, вывелі са строю 2 вадакачкі, воданапорную вежу, святлафор, чыг. стрэлкі. Сумесна з групамі рэзерву падарвалі і знялі рэльсы на працягу 3 км, знішчылі каля 5 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі сувязі. Праціўнік страціў забітымі каля 120 гітлераўцаў. У выніку бою рух па чыгунцы быў затрыманы на некалькі сутак. Эфектыўны напад партызан на ст. Слаўнае ўстрывожыў гітлераўскае кіраўніцтва. Гітлер патрабаваў неадкладнага правядзення аперацыі адплаты «з выкарыстаннем самых жорсткіх рэпрэсіўных мер». Аператыўны аддзел генеральнага штаба сухапутных сіл Германіі загадаў гал. камандаванню групы ням. армій «Цэнтр» «ажыццявіць адпаведныя «мерапрыемствы». 2.9.1942 у г. п. Крупкі ў прысутнасці сагнаных да месца пакарання жыхароў фашысты расстралялі 100 сав. грамадзян, гал. чынам жанчын, дзяцей і старых, якія не мелі ніякага дачынення да аперацыі партызан, іх дамы спалілі. У 1967 у памяць аб баявой аперацыі партызан на будынку ст. Слаўнае ўстаноўлена мемар. дошка.

*М. У. Філімоненкаў.*



А. І. Сліц. Я. Р. Слонскі.

**СЛІЦ** Антон Іванавіч (17.5.1894, в. Анзулі Прэйльскага р-на Латвійскай ССР — 28.6.1945), ген.-маёр (1944), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1920. Беларус. У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. З чэрв. 1941 на Зах. і 2-м Бел. франтах. Удзельнік баёў пад Смаленскам, Вязьмай, Масквой, вызвалення Беларусі. Дывізія пад яго камандаваннем вызначылася ў чэрв. 1944 пры фарсіраванні Басі, Дняпра, Друці, забяспечыла поспех у завяршэнні Магілёўскай аперацыі. З 23 да 30.6.1944 вызваліла каля 300 нас. пунктаў.

**СЛО́НІМ,** горад, цэнтр Слонімскага р-на, на р. Шчара пры ўпадзенні ў яе р. Іса. За 148 км на ПдУ ад Гродна, чыг. станцыя на лініі Баранавічы — Ваўкавыск, вузел аўтадарог. 26,7 тыс. жыхароў у 1939. 23—25.6.1941 жорсткія абарончыя баі ў раёне С. супраць танк. дывізій 47-га матарызаванага корпуса 2-й ням. танк. групы (камандзір ген. Гудэрыян) вялі воіны 121-й (ген.-маёр П. М. Зыкаў), 155-й (ген.-маёр П. А. Аляксандраў) і 143-й (ген.-маёр Д. П. Сафронаў) стралк. дывізій Зах. фронту. 24 чэрв. яны знішчылі дзесяткі танкаў. Воіны 121-й дывізіі спалілі і падбілі 35 танкаў, збілі 13 самалётаў, знішчылі шмат жывой сілы праціўніка. На шашы Ружаны — Слонім танк. дывізія палк. Конанава разграміла аўтакалону гітлераўцаў і захапіла камплект штабных карт 2-й танк. групы Гудэрыяна. 25 чэрв. праціўнік аднавіў атакі, на адным участку на У ад С. прасунуўся на 3—5 км, але страціў больш за 50 танкаў, на Пд ад С. прарваўся цераз р. Шчара на 2—3 км, але быў затрыманы. Спроба абысці С. з ПдУ таксама пацярпела няўдачу. Стойкая абарона ў раёне С. вымусіла Гудэрыяна падцягнуць сюды 29-ю матарызаваную дывізію, што рэзка пагоршыла становішча сав. войск, і яны з баямі сталі адыходзіць да Баранавіч. 26.6.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў горадзе і раёне 42 тыс. чал., у т. л. ў С. больш за 10 тыс. чал. У горадзе і раёне дзейнічалі *Слонімская раённая антыфашысцкая арганізацыя, Слонімскі падпольны міжрайпартцэнтр, Слонімскі падпольны міжрайцэнтр ЛКСМБ*, Слонімскія падп. райкомы КП(б)Б (17.9.1943—10.7.1944) і ЛКСМБ (1.12.1943—10.7.1944), партыз. фарміраванні Слонімскай зоны (пазней партыз. брыгада імя Ракасоўскага), а таксама партыз. брыгада імя Панамарэнкі, асобныя партыз. атрады імя Будзённага, імя Калініна, І. Ф. Топкіна, імя Шчорса (гл. адпаведныя артыкулы); выдавалася падп. газ. *«Вольная праца»*. Вызвалены 10.7.1944 воінамі 37-й гвардз. (палк. В. Л. Марозаў), 15-й (ген.-маёр К. Я. Грабеннік) стралк. дывізій 18-га стралк. корпуса, 75-й лёгкай (пал. А. Дз. Главінскі) і 77-й гаўбічнай (палк. А. І. Харламаў) арт. брыгад 26-й арт. дывізіі (ген.-маёр Б. А. Фралоў) 65-й арміі, 17-й гвардз. танк. (палк. Б. У. Шульгін) і 1-й гвардз. мотастралк. (ген.-маёр Г. М. Філіпаў) брыгад 1-га гвардз. танк. корпуса, 10-й (палк. Р. І. Рэва), 9-й (ген.-маёр І. В. Тутарынаў) гвардз. кав. дывізій, часткі сіл 30-й кав. дывізіі (ген.-маёр В. С. Галаўской), 151-га асобнага танк. палка (маёр П. І. Бакін) 4-га гвардз. кав. корпуса, 23-й (падпалк. К. І. Бойка), 95-й (палк. А. І. Кузняцоў), 108-й (падпалк. В. Н. Баранюк) танк. брыгад, 8-й мотастралк. брыгады (падпалк. П. І. Трушкін), 1455-га (падпалк. М. М. Касцючэнка) і 1508-га (падпалк. І. В. Гацук) самаходных арт. палкоў 9-га танк. корпуса коннамеханіз. групы, 199-й штурмавой авіядывізіі 16-й паветр. арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе наступлення на баранавіцка-брэсцкім напрамку. 11 вайсковым злучэнням і часцям нададзены ганаровыя найменні «Слонімскіх» (гл. *Слонімскія вайсковыя злучэнні і часці*). У С. 2 брацкія магілы сав. воінаў, на якіх пастаўлены помнікі; брацкая магіла сав. воінаў і партызан, на ёй пастаўлены помнік і запалены Вечны агонь; могілкі ахвяр фашызму (за 5 км ад горада); магілы Героя Сав. Саюза К. С. *Гнідаша* і радысткі-разведчыцы К. Т. Давідзюк, ахвяр фашызму, на якіх пастаўлены помнікі; помнікі вызваліцелям, лётчыкам, землякам, працаўнікам кардоннапапяровага з-да, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну; мемар. дошка на месцы расстрэлу сав. ваеннапалонных. Працуе *Слонімскі раённы краязнаўчы музей.* *В. В. Гетаў.*

**СЛОНІМСКАЯ РАЁННАЯ АНТЫФАШЫСЦКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ.** Дзейнічала з ліст. 1942 да ліп. 1944 у г. Слоніме і Слонімскім р-не пад кіраўніцтвам *Брэсцкага міжраённага «Камітэта барацьбы з нямецкімі акупантамі»* (да чэрв. 1943), *Слонімскага падпольнага міжрайпартцэнтра* (жн.—снеж. 1943), Слонімскага падп. РК КП(б)Б (з вер. 1943). Складалася з 8 ячэек (груп), якія мелі свае базы ў Слоніме (сакратары ячэйкі І. Д. Міско, В. І. Вільчынскі), вёсках Глоўсевічы (М. Р. Ракуць), Какошычы (Л. Я. Дабрыян, В. П. Дабрыян), Вялікая Кракотка (К. С. Петручэня, Р. П. Збраевіч), Пасінічы (М. М. Анішчык, У. П. Філітовіч, Т. В. Кіслы, І. М. Цвікевіч), Сяргеевічы (В. А. Жукоўскі), Чамяры (М. В. Бурсевіч, З. Ц. Бурсевіч), Чапялёва (С. С. Гайко). Налічвала 100 чал., у т. л. 6 камуністаў і 10 камсамольцаў. Створана на базе антыфаш. ячэек (груп), якія ўзніклі па ініцыятыве камуністаў, камсамольцаў, былых чл. КПЗБ і КСМЗБ, удзельнікаў рэв. і нац.-вызв. барацьбы на тэр. Зах. Беларусі. Восенню 1942 прадстаўнікі к-та М. Ф. Трында і М. А. Мініч устанавілі сувязь з падпольшчыкамі, удзельнічалі ў арг-цыі новых ячэек. На канспіратыўнай нарадзе кіраўнікоў ячэек і прадстаўнікоў к-та арганізацыйна аформлена раённая арг-цыя, выбраны яе к-т, у які ўвайшлі Ф. З. Міско (сакратар), Вільчынскі, Л. Я. Дабрыян, Г. А. Жыткевіч, І. А. Каско, І. Д. Міско, К. П. Марозаў.

Падпольшчыкі вялі агітацыйна-прапагандысцкую работу сярод насельніцтва, распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, газ. «Вольная праца» і інш. выданні Слонімскага падп. РК КП(б)Б, друкаваныя матэрыялы, атрыманыя з-за лініі фронту, у чэрв. 1944 выдавалі газ. «Барацьба». Яны зрывалі мерапрыемствы акупац. улад, іх спробы правядзення прымусовай мабілізацыі сав. людзей у фаш. ўзброеныя фарміраванні, ратавалі моладзь ад угону ў Германію, збіралі грошы і каштоўнасці ў *фонд абароны*. Падтрымлівалі цесную сувязь з партыз. атрадамі імя П. К. Панамарэнкі і імя Ф. Э. Дзяржынскага *партызанскай брыгады імя К. К. Ракасоўскага*, *партызанскай брыгады «Савецкая Беларусь»*, *партызанскай брыгады імя П. К. Панамарэнкі*, якія дзейнічалі на тэр. Слонімскага р-на. Збіралі і перадавалі партызанам зброю і боепрыпасы (24 кулямёты, больш як 100 вінтовак, каля 10 тыс. патронаў, больш 400 кг узрыўчаткі і інш.), медыкаменты, адзенне, абутак, рыхтавалі і адпраўлялі ў партыз. атрады новае папаўненне. На студз. 1944 у атрадзе імя Ф. Э. Дзяржынскага б. падпольшчыкі складалі палавіну асабовага саставу. Пагрыёты знішчалі тэлефонна-тэлеграфную сувязь, выводзілі са строю абсталяванне на прадпрыемствах і ў майстэрнях, наносілі інш. страты акупантам. Падп. група моладзі в. Чамяры падарвала варожы эшалон з вугалем. Па заданню партызан антыфашысты ўзарвалі мост на р. Іса ў Слоніме. Члены групы в. Какошычы сумесна з партызанамі ўдзельнічалі ў баявых аперацыях на чыг. камунікацыях ворага, самастойна пусцілі пад адхон некалькі эшалонаў, знішчылі тэлефонна тэлеграфную сувязь на лініях Слонім — Баранавічы, Слонім — Ружаны. Антыфашысты Слоніма вылілі 5 тыс. літраў гаручага, прызначанага для гар. электрастанцыі, сістэматычна выводзілі са строю абсталяванне на лесазаводзе і інш. прадпрыемствах горада, знішчалі тэлефонныя слупы. Падпольшчыкі в. Азярніца сумесна з партызанамі ў вер. 1943 спалілі склад з хлебам, прызначаным для фаш. салдат і афіцэраў.

У барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі загінулі В. І. Вільчынскі, П. І. Герман, І. А. Каско, М. І. Кот, Я. І. Куніца, В. А. і Ф. З. Міско, І. А. Пытляк, А. І. Радзішэўскі, Л. І. і Я. І. Сенчыкі, Т. В. Сяргеева, М. А. Прэшкіна.

*Л. В. Аржаева, П. П. Ліпіла.*

**СЛОНІМСКІ ПАДПОЛЬНЫ МІЖРАЙПАРТЦЭНТР.** Дзейнічаў з 14.8 да снеж. 1943 пад кіраўніцтвам *Баранавіцкага падпольнага абкома КП(б)Б*. У зону яго дзейнасці па кіраўніцтву парт. падполлем і партыз. рухам уваходзілі Быценскі і Ляхавіцкі, Слонімскі і Казлоўшчынскі р-ны (да вер. 1943) і г. Слонім. Накіроўваў дзейнасць *Слонімскай раённай антыфашысцкай арганізацыі*, *Слонімскага падпольнага міжрайцэнтра ЛКСМБ*. Састаў міжрайпартцэнтра: М. Т. *Анішчык* (кіраўнік), Р. Я. Дудар (нам. па ваен.-аператыўнай рабоце). *М. І. Эпалетаў.*

**СЛОНІМСКІ ПАДПОЛЬНЫ МІЖРАЙЦЭНТР ЛКСМБ.** Створаны *Баранавіцкім падпольным абкомам ЛКСМБ*. Дзейнічаў з 6.10 да 19.12.1943 пад кіраўніцтвам *Слонімскага падпольнага міжрайпартцэнтра* і Баранавіцкага падп. абкома ЛКСМБ. Кіраваў падп. работай у Слонімскім, Быценскім і Казлоўшчынскім р-нах. Кіраўнік У. С. Міхнян (адначасова з 1.12. 1943 сакратар Слонімскага падп. райкома ЛКСМБ). Базіраваўся ў партыз. атрадах імя Ф. Э. Дзяржынскага і імя П. К. Панамарэнкі *партызанскай брыгады імя К. К. Ракасоўскага*. Пасля ліквідацыі міжрайцэнтра Міхнян працаваў упаўнаважаным Баранавіцкага падп. абкома ЛКСМБ па Слонімскай зоне. *Р. М. Шавяла.*

**СЛОНІМСКІ РАЁННЫ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ.** Адкрыты 20.9.1929. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, мае 600 экспанатаў, пл. 41 м². Прадстаўлены матэрыялы пра пачатковы перыяд вайны (схема баявых дзеянняў Чырв. Арміі на тэр. раёна, фатаграфіі воінаў 121-й, 143, 155-й стралк. дывізій, якія абаранялі Слонімшчыну 23—25.6.1941, фатаграфія камандзіра 6-га механіз. корпуса ген.-маёра М. Г. Хацкілевіча, які загінуў каля в. Азярніца, асабістыя рэчы і зброя воінаў, знойдзеныя на месцы баёў), пра ўзнікненне і разгортванне падполля і партыз. руху, дзейнасць *Слонімскай раённай антыфашысцкай арганізацыі:* фатаграфіі сакратароў падп. райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ М. Т. *Анішчыка*, У. С. Міхняна, М. М. Анішчыка і інш., пратаколы пасяджэнняў падп. райкома партыі, фатаграфіі і ўзнагароды кіраўнікоў антыфаш. падполля Ф. З. Міско, І. Д. Міско, справаздачы аб прароб ленай рабоце, лістоўкі, партыз. насценгазеты, друкарскі станок, пішучая машынка, падп. газеты «Барацьба», «Вольная праца», «За Родину», «Молодой мститель», «Чырвоная звязда», карта дыслакацыі партыз. атрадаў, схема баявой дзейнасці партызан, журналы баявой і дыверсійнай работы, дакументы, асабістыя рэчы, узнагароды, зброя, фатаграфіі партызан, у т. л. камандзіраў брыгад імя Ракасоўскага Я. А. Прыданнікава, Ленінскай Героя Сав. Саюза Ф. М. *Сінічкіна*, атрадаў імя Дзяржынскага А. С. Серага, «Непераможны» П. М. Герасімчыка і інш. Пра злачынствы ням.-фаш. акупантаў расказваюць дакументы, фатаграфіі месцаў масавай загубы людзей, у т. л. Петралевіцкай гары паблізу Слоніма, вязняў фаш. лагераў смерці і інш. Матэрыялы пра вызваленне Слонімшчыны войскамі 28-й, 48, 65-й армій (схемы дзеянняў палкоў і дывізій, фатаграфіі і пісьмы воінаў-вызваліцеляў), пра вайсковыя часці і злучэнні, якія атрымалі ганаровыя найменні «Слонімскіх», пра землякоў — удзельнікаў Вял. Айч. вайны. Экспануецца карціна «Падпольная партызанская друкарня» (маст. М. Бяляўскі) і інш.

*І. Р. Шпыркова.*

**СЛОНІМСКІЯ ВАЙСКОВЫЯ ЗЛУЧЭННІ І ЧАСЦІ.** За вызваленне г. Слонім (10.7.1944) у час наступлення на баранавіцка-брэсцкім напрамку паводле загада ВГК ад 27.7.1944 ганаровае найменне «Слонімскіх» атрымалі 11 злучэнняў і часцей 65-й і 16-й паветр. армій, 2-га гвардз. танк. корпуса і конна-механізаванай групы 1-га Бел. фронту.

Часці і злучэнні, якім нададзены найменні «Слонімскіх»: 199-я штурмавая авіяц. дывізія (палк. М. С. Вінаградаў), 19-я (палк. У. В. Яршоў) і 35-я (палк. І. В. Гаўрылаў) механізаваныя брыгады, 30-ы (падпалк. А. І. Гераськін), 32-і (маёр А. А. Шахмаеў) і 34-ы (падпалк. І. І. Жылін) Кубанскія гвардз. казацкія кав. палкі, 151-ы асобны танк. полк (маёр П. І. Бакін), 925-ы Чырванасцяжны лёгкі самаходны арт. полк (падпалк. П. С. Ложкін), 181-ы гвардз. армейскі арт.-мінамётны полк (маёр М. Р. Мароз), 9-ы асобны штурмавы інж.-сапёрны батальён (маёр Я. Р. Лісіцкі), 899-ы карпусны сапёрны батальён (маёр В. М Бслякоў). Войскам, якія фарсіравалі р. Шчара і вызвалілі Слонім, загадам ВГК ад 10.7. 1944 абвешчана падзяка, у Маскве дадзены салют 20 арт. залпамі з 244 гармат. У 1968 у Слоніме пастаўлены помнік вызваліцелям — танк Т-34 на п'едэстале і стэла, дзе пералічаны вайсковыя часці і злучэнні, якія вызвалялі горад.

*М. І. Камінскі.*

**СЛОНСКІ** Яўстафій Рыгоравіч (5.5. 1886, в. Юр'ева Смалявіцкага р-на —

28.9.1943), Герой Сав. Саюза (1944). У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. На фронце з чэрв. 1941. Нам. камандзіра стралк. палка маёр С. вызначыўся ў бітве за Дняпро каля с. Вял. Букрын на ПдУ ад Кіева. У ноч на 24.9.1943 з першымі падраздзяленнямі фарсіраваў раку і захапіў плацдарм. Утрымліваючы яго, з воінамі адбіў контратаку варожага батальёна, падтрыманага танкамі, чым забяспечыў пераправу астатніх падраздзяленняў палка. У баі за в. Юшкі Кіеўскай вобл. асабістым прыкладам натхняў байцоў, паранены не пакінуў поля бою. Загінуў у баі. Яго імем названа вуліца ў пас. Леў Талстой Ліпецкай вобл.

**СЛУЦК,** горад абл. падпарадкавання, цэнтр Слуцкага р-на, на р. Случ. За 105 км на Пд ад Мінска, вузел чыгунак (лініі на Баранавічы, Салігорск, Асіповічы) і аўтамаб. дарог (на Мінск, Брэст, Салігорск, Бабруйск). З 1924 цэнтр раёна. 21,9 тыс. жыхароў у 1939. 26.6.1941 на подступах да горада мотастралк. полк 30-й танк. дывізіі (палк. С. І. *Багданаў*) спыніў 24-ы матарызаваны корпус 2-й танк. групы ген. Гудэрыяна. На працягу дня ням. танк. дывізіі некалькі разоў атакавалі сав. войскі ў С., але захапіць горад і пераправіцца цераз р. Случ не здолелі. У ноч на 27 чэрв. праціўнік захапіў паўн. частку С., ваен. гарадкі, раніцай 27 чэрв. акупіраваў увесь горад. Ням.-фаш. захопнікі зрабілі С. цэнтрам акругі (гебіцкамісарыят), гарнізон налічваў каля 1400 салдат і афіцэраў. За гады акупацыі гітлераўцы ў горадзе і раёне знішчылі 25 584 чал., арганізавалі ў С. 3 лагеры смерці, у якіх загубілі каля 20 тыс. чал. У пачатку ліп. 1941 партыз. атрад пад камандаваннем М. І. Жукоўскага напаў на гарнізон у С. У 1941 у С. дзейнічала разведгрупа Зах. фронту на чале з маёрам М. Купрыянавым. У сак. 1942 у час рэйду Мінскага партыз. злучэння атрад пад камандаваннем І. М. Тараховіча («Дунаева») зрабіў налёт на С. На тэр. раёна дзейнічалі *Слуцкае партыйна-камсамольскае падполле, Слуцкі падпольны міжрайком КП(б)Б, Слуцкі падпольны міжрайком ЛКСМБ*, Слуцкія падп. райкомы КП(б)Б (29.3.1943—30.6.1944) і ЛКСМБ (1.9.1942—30.6.1944), *Слуцкай зоны партызанскае злучэнне*, партыз. брыгады імя Варашылава, 225-я імя Суворава, 64-я імя Чкалава, 95-я імя Фрунзе, асобны партыз. атрад Слуцкі, партыз. група «Багатыры» (гл. адпаведныя артыкулы), партыз. група ген.-маёра М. П. *Канстанцінава*, выдаваліся падп. газеты *«Патриот Родины»* і *«Народны мсцівец»*. Вызвалены 30.6.1944 воінамі 50-й гвардз. стралк. дывізіі (ген.-маёр А. С. Уладычанскі), часткай сіл 96-й гвардз. стралк. дывізіі (ген.-маёр С. М. Кузняцоў) 3-га гвардз. стралк. корпуса 28-й арміі, конна-механізаванай групы ў складзе 30-й кав. дывізіі (ген.-маёр В. С. Галаўской), 10-й (палк. М. С. Папрыкайла) і 9-й (ген.-маёр І. В. Тутарынаў) гвардз. кав. дывізій, 128-га (падпалк. Ф. В. Небылоў) і 151-га (маёр К. Ц. Чаркасаў) асобных танк. палкоў, 1815-га самаходнага арт. палка (маёр А. П. Турчын) 4-га гвардз. кав. корпуса, 37-й механізаванай брыгады (палк. М. М. Кулікоў), 219-й танк. брыгады (палк. М. Р. Хлюпін) 1-га механізаванага корпуса, 1-й асобнай знішчальна-процітанк. брыгады (палк. І. М. Вахрамееў), часткай сіл 299-й штурмавой авіядывізіі 16-й паветр. арміі 1-га Бел. фронту, а таксама партызанамі атрада імя Фрунзе (К. А. Прыгуноў) партыз. брыгады 225-й імя Суворава ў ходзе *Мінскай аперацыі 1944*. 8 вайсковым часцям і злучэнням былі нададзены ганаровыя найменні «Слуцкіх» (гл. ў арт. *Слуцкія вайсковыя злучэнні і часці*). У С. брацкія магілы сав. воінаў, партызан, ваеннапалонных, ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі; помнікі Вызваліцелям, у гонар 20-годдзя Перамогі над фаш. Германіяй, на магіле падпольшчыцы Н. Я. Маглыш; мемарыяльныя дошкі на доме, дзе ў 1936—37 жыў Г. К. *Жукаў* разам з сям'ёй, партызанам, сав. воінам, у гонар антыфаш. групы. Працуе *Слуцкі краязнаўчы музей.*

*У. М. Якубоўскі.*

**СЛУ́ЦКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала ў Слуцку і яго ваколіцах з кастр. 1941 да сак. 1943 пад кіраўніцтвам *Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б* і *Слуцкага падпольнага міжрайкома КП(б)Б.* Складалася з 3 груп. Арганізатары і кіраўнікі камуністы А. Дз. Фамін, М. І. Багуноў, камсамольцы П. Я. Маглыш, М. І. Відзякін, Дз. В. Каўшоў. Трымала сувязь з партыз. атрадамі Камарова (В. З. *Каржа*) Пінскага партыз. злучэння і імя Фрунзе *партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава* Мінскай вобл. Падпольшчыкі вялі агітацыйную работу сярод насельніцтва, мелі 2 радыёпрыёмнікі, прымалі і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, збіралі і перадавалі партызанам звесткі пра колькасць і дыслакацыю вайск. часцей гарнізона, мерапрыемствы акупантаў. Забяспечвалі партызан дакументамі, вынеслі з гар. друкарні акупантаў і перадалі партызанам друкарскі шрыфт, фарбу, паперу, пішучую машынку.

Група Фаміна абмундзіравала, узброіла і ў ліст. 1942 пераправіла да партызан больш за 20 ваеннапалонных, перадала партызанам 22 вінтоўкі, 2 пісталеты, 12 гранат і каля тыс. патронаў. Група Маглыша ў снеж. 1942 і ў пач. 1943 адправіла да партызан 127 ваеннапалонных, зброю, аўтамашыны. Падпольшчыкі летам 1942 пад кіраўніцтвам А. Ф. Баркоўскага спалілі аўтарамонтныя майстэрні разам з абсталяваннем і машынамі, якія былі на рамонце. У ноч на 5.12.1942 па заданню Слуцкага падп. міжрайкома КП(б)Б Каўшоў, М. С. Кокін і К. У. Мешчаракоў узарвалі дастаўленыя сувязной М. І. Батурынай міны ў будынку гар. электрастанцыі, вывелі са строю сілавы трансфарматар і вузел сувязі. Вясной 1943 Г. Дз. Сотнікаў падпаліў склад гатовай прадукцыі Слуцкай мэблевай ф-кі. Да сак. 1943 большасць падпольшчыкаў пайшла да партызан.

У барацьбе з ням.-фаш. акупантамі загінулі: М. І. Багуноў, А. Ф. Баркоўскі, М. К. Барысік, Н. Я., П. Я. і Я. Дз. Маглышы, К. У. Мешчаракоў, Н. Р. Радзюк, М. Н. Сакаловіч, К. П. Станкевіч, П. А. Трухан.

*А. Б. Рогаў.*

**СЛУ́ЦКАЙ ЗО́НЫ ПАРТЫЗА́НСКАЕ ЗЛУЧЭ́ННЕ.** Створана ў снеж. 1942 паводле ўказання нач. ЦШПР і сакратара ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнкі Слуцкім міжрайкомам КП(б)Б на базе *партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава.* Дзейнічала на тэр. Капыльскага, Уздзенскага, Грэскага, Слуцкага і Чырвонаслабодскага р-наў. У злучэнне ўваходзілі брыгады: 27-я імя Чапаева, 225-я імя Суворава, 300-я імя Варашылава. Налічвала больш за 4 тыс. партызан. Камандзіры П. П. *Капуста* (снеж. 1942 — май 1943), М. А. *Шастапалаў* (май — жн. 1943), нач. штаба П. З. Ігнашчанка. У жн. 1943 злучэнне расфарміравана, больш за 700 партызан перададзены для фарміравання *Беластоцкага партызанскага злучэння*, асн. сілы ўліліся ў *Мінскае партызанскае злучэнне.*

*А. Л. Манаенкаў.*

**СЛУ́ЦКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты ў кастр. 1952. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, мае 2,5 тыс. экспанатаў, у т. л. каля 300 у экспазіцыі, пл. 55 м². Прадстаўлены матэрыялы пра пачатковы перыяд вайны, узнікненне і разгортванне падполля і партыз. руху ў раёне, пра падп. камсам. групы П. Маглыша, М. Радзюка і інш., *Слуцкае партыйна-камсамольскае падполле*, першую партыз. групу пад камандаваннем ген.-маёра М. П. *Канстанцінава, Слуцкі падпольны міжрайком КП(б)Б,* фатаграфія сакратара Слуцкага падп. РК КП(б)Б І. С. Канановіча, фатаграфіі, дакументы, асабістыя рэчы, баявыя ўзнагароды камандзіраў і камісараў партыз. брыгад і атрадаў: 64-й імя Чкалава М. М. Розава і А. В. Львова, 95-й імя Фрунзе І. В. Арастовіча і А. Ц. Міновіча, імя Ракасоўскага А. Дз. Фаміна, «Жалязняк» А. Л. Нікіціна, імя 14 слуцкіх партызан М. Д. Бялько і інш., лістоўкі, асобныя нумары падп. газет *«Народны мсцівец»* і *«Сталінец»*, друкарскі станок і касы для шрыфтоў партыз. друкарні, пячатка партыз. атрада «Жалязняк», камсам. білет упаўнаважанага ЦК ЛКСМБ па Слуцкім раёне П. І. Урбана, самаробныя аўтамат, гранаты, гранатамёт, зроблены ў зброевай майстэрні брыгады імя Чка-

лава. Расказваецца пра злачынствы ням.-фаш. захопнікаў у раёне: дакументы і матэрыялы пра спаленыя разам з жыхарамі вёскі, Слуцкі лагер смерці, лістоўка «Голос из неволи» і інш. Матэрыялы пра вызваленне горада і раёна войскамі 1-га Беларускага фронту, пра вайсковыя часці і злучэнні, што атрымалі ганаровае найменне «Слуцкіх» (фатаграфіі, дакументы, асабістыя рэчы воінаў-вызваліцеляў, у т. л. Герояў Сав. Саюза А. М. Губіна, Н. Р. Рафіева), воінаў-землякоў Герояў Сав. Саюза Ф. П. *Бруя*, А. І. *Уласайца*, ген.-лейт. У. А. *Дубовіка*, Дз. Дз. *Зубовіча*, П. П. *Корзуна* і інш. Экспануецца інтэр'ер партыз. падп. друкарні, дыярама «Бой каля вёскі Пераходы» і інш.

*В. С. Відлога.*

**СЛУ́ЦКІ ПАДПО́ЛЬНЫ МІЖРАЙКО́М КП(б)Б.** Міжраённы камітэт КП(б)Б Слуцкай зоны. Дзейнічаў з жн. 1942 да ліп. 1943 пад кіраўніцтвам *Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б*. Кіраваў парт. патрыятычным падполлем і партыз. рухам на тэр. Грэскага, Дзяржынскага, Капыльскага, Чырвонаслабодскага, Слуцкага і Уздзенскага р-наў. Стварыў Грэскі, Дзяржынскі, Капыльскі, Чырвонаслабодскі, Слуцкі, Клецкі і Нясвіжскі падп. райкомы [гл. *Раённыя падпольныя камітэты КП(б)Б*], зацвердзіў упаўнаважанага міжрайкома КП(б)Б па Ляхавіцкім р-не. Сфарміраваў *Слуцкай зоны партызанскае злучэнне*. Састаў міжрайкома: І. Дз. *Варвашэня* (сакратар да крас. 1943), А. І. Сцяпанава (в. а. сакратара з чэрв. 1943); члены: І. К. *Жыжык* (да 20.3.1943), У. І. *Заяц*, Сцяпанава, М. А. *Шастапалаў* (з 21.12.1942), П. А. *Капуста* (з 20.3. 1943). Друкаваны орган — газ. *«Патриот Родины»*.

У гонар падп. міжрайкома ў в. Старыца Капыльскага р-на ў 1983 устаноўлена мемар. дошка. *А. М. Літвін.*

**СЛУ́ЦКІ ПАДПО́ЛЬНЫ МІЖРАЙКО́М ЛКСМБ.** Дзейнічаў з 18.7.1942 да 22.11.1943 пад кіраўніцтвам *Слуцкага падпольнага міжрайкома КП(б)Б* і *Мінскага падпольнага абкома ЛКСМБ* (з 26.6.1943). Кіраваў пярвічнымі камсам. арг-цыямі ў партыз. фарміраваннях і камсам.-маладзёжным падполлем у Грэскім, Капыльскім, Любанскім, Слуцкім, Старобінскім, Старадарожскім, Уздзенскім, Чырвонаслабодскім р-нах і ў г. Слуцк, стварыў адпаведныя падп. райкомы ЛКСМБ і ўзначальваў іх дзейнасць. Сакратары: П. Е. *Папоў*, *С. І. Пармон* (з 1.1.1943); члены: І. А. Клязовіч (нам. сакратара), Г. М. Абухаў (1.8.1942—1.2.1943), М. С. Багушэвіч (з 21.3.1943), М. А. Чыжоў (з 1.2. 1943); сувязны ЦК ЛКСМБ з міжрайкомам — М. Ф. Дзешавой (да 1.3. 1943). Базіраваўся ў партыз. фарміраваннях Слуцкай зоны. Пасля выканання ўскладзеных на яго задач ліквідаваны рашэннем ЦК ЛКСМБ. Камсамольскай работай і падполлем на тэр. названых вышэй раёнаў стаў кіраваць Мінскі падп. абком ЛКСМБ.

*Р. М. Шавяла.*

**СЛУ́ЦКІЯ ВАЙСКО́ВЫЯ ЗЛУЧЭ́ННІ І ЧА́СЦІ.** За вызваленне г. Слуцк (30.6.1944) у ходзе *Мінскай аперацыі 1944* ганаровае найменне «Слуцкіх» паводле загада ВГК ад 5.7.1944 атрымалі 8 злучэнняў і часцей 28-й, 16-й паветр. армій і конна-механізм. групы 1-га Бел. фронту.

Часці і злучэнні, якім нададзены найменні «Слуцкіх»: 10-я гвардз. Кубанская казацкая кав. Чырванасцяжная дывізія (палк. М. С. Папрыкайла), 37-я механіз. Чырванасцяжная брыгада (палк. М. М. Кулікаў), 1-я асобная знішчальная процітанкавая арт. Чырванасцяжная брыгада (палк. І. М. Вахрамееў), 218-ы (падпалк. М. К. Лысенка), 431-ы (падпалк. П. Г. Плохаў) і 874-ы (маёр М. Г. Волкаў) штурмавыя авіяц. палкі, 53-і асобны матарызаваны пантонна-маставы батальён (маёр А. М. Арэцкі), 91-ы інж.-сапёрны Чырванасцяжны батальён (маёр В. Л. Гогалеў). У 1967 у Слуцку пастаўлены абеліск у гонар вызваліцеляў, каля яго на стэлах пералічаны часці і злучэнні, якія вызвалялі горад. *М. І. Камінскі.*




**СМА́ГІН** Дзмітрый Анісімавіч (5.5. 1908, с. Смагіна Лівенскага павета Арлоўскай губерні — 4.12.1986), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1950. З 1930 у Чырв. Арміі. Скончыў Сумскае арт. вучылішча (1934). У партызанах з чэрв. 1942: камісар атрада, у чэрв. 1942 — чэрв. 1943 *партызанскай брыгады 8-й Кругляпскай*, у кастр. 1943 — лют. 1944 *партызанскага палка 810-га*.

**СМАЛЕ́НСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1943,** наступальная аперацыя войск Зах. (камандуючы ген.-палк., са жн. 1943 ген. арміі В. Д. *Сакалоўскі*) і левага крыла Калінінскага (ген.-палк. А. І. *Яроменка*) франтоў 7 жн.— 2 кастр.; састаўная частка агульнага наступлення Чырв. Арміі ў летне-асенняй кампаніі 1943. Мэта — разграміць левае крыло ням.-фаш. групы армій «Цэнтр» і не дапусціць перакідвання варожых сіл на паўд.-зах. напрамак, дзе Чырв. Армія наносіла гал. ўдар.

Ням.-фаш. камандаванне, надаючы вял. значэнне ўтрыманню пазіцый на У ад Смаленска і Рослаўля, сканцэнтравала на гэтым напрамку 44 дывізіі, звыш 850 тыс. чал., каля 8800 гармат і мінамётаў, каля 500 танкаў і штурмавых гармат, да 700 самалётаў. Праціўнік меў моцную абарону, якая складала цэнтр. частку *«Усходняга вала»* і ўключала 5—6 абарончых палос глыбінёй 100—130 км. Да пач. аперацыі ў складзе Зах. і Калінінскага франтоў налічвалася 1253 тыс. чал., 20 640 гармат і мінамётаў, 1436 танкаў і самаходных арт. установак, 1100 самалётаў. Войскі Зах. фронту павінны былі знішчыць праціўніка ў раёнах Ельні, Спас-Дземенска, наступаць на Рослаўль, нанесці ўдар у фланг варожай групоўкі, разгорнутай супраць Бранскага фронту. Войскам правага крыла Зах. і левага крыла Калінінскага франтоў была пастаўлена задача разграміць праціўніка ў раёнах Ярцава, Дарагабужа, Духаўшчыны, авалодаць Смаленскам (план «Сувораў І»). У выпадку паспяховага наступлення Бранскага фронту прадугледжваўся паварот гал. сіл Зах. фронту на Смаленск (план «Сувораў ІІ»). Прарыў абароны праціўніка намячалася ажыццявіць на чатырох участках у палосе Зах. і на адным у палосе Калінінскага франтоў.

С. а. ўключала 4 аб'яднаныя агульнай задумай франтавыя аперацыі: Спас-Дземенскую, Ельнінска-Дарагабужскую, Духаўшчынска-Дзямідаўскую і Смаленска-Рослаўскую. 7 жн. з раёна на У ад Спас-Дземенска перайшла ў наступленне ўдарная групоўка Зах. фронту ў складзе 10-й гвардз. і 33-й армій пры падтрымцы 1-й паветр. арміі. За 14 дзён наступлення была прарвана так-

тычная зона абароны, сав. войскі прасунуліся на 30—40 км. 13 жн. вызвалены Спас-Дземенск і на духаўшчынскім напрамку перайшлі ў наступленне войскі Калінінскага фронту, але толькі нязначна змаглі ўклініцца ў абарону праціўніка. У стварыўшыхся ўмовах Стаўка ВГК часова прыпыніла наступленне для перагрупоўкі сіл. 28 жн. наступленне аднавілася. 30 жн. войскі Зах. фронту авалодалі Ельняй, правым крылом фарсіравалі Дняпро і 1 вер. вызвалілі Дарагабуж. 14—15 вер. аднавілі наступленне войскі Калінінскага і Зах. франтоў. Вызвалены: 16 вер. Ярцава, 21 вер. Дзямідаў, 25 вер. Смаленск і Рослаўль, 28 вер. г. Мсціслаў — райцэнтр Магілёўскай вобл. 2 кастр. С. а. закончылася. Зах. і Калінінскі франты выйшлі на рубеж Рудня, на У ад Краснага, Горак, Дрыбіна, далей па р. Проня і ўступілі ў межы ўсх. раёнаў Беларусі, дзе перайшлі да абароны. Наступаючы ў палосе працягласцю да 400 км, сав. войскі прасунуліся на З на 200—250 км. У выніку С. а. вораг быў адкінуты далёка ад Масквы, ачышчаны ад ням.-фаш. акупантаў частка Калінінскай, Смаленская вобл., пачалося выгнанне ворага з межаў Беларусі, усяго вызвалена больш за 7,5 тыс. населеных пунктаў.

Калінінскі і Зах. франты скавалі 55 варожых дывізій. Праціўнік быў вымушаны перакінуць з арлоўска-бранскага напрамку ў раён Смаленска 16 дывізій, што садзейнічала паспяховаму завяршэнню контрнаступлення сав. войск у *Курскай бітве 1943.* 104 злучэнням і часцям, якія асабліва вызначыліся, нададзены ганаровыя найменні, многія ўзнаг. ордэнамі.

Значную дапамогу сав. войскам у С. а. аказалі партызаны. У ноч на 3 жн. метадам *«рэйкавай вайны»* яны нанеслі масіраваныя ўдары па чыг. камунікацыях праціўніка і працягвалі іх увесь жн. і 1-ю пал. верасня; 19 вер. пачаўся 2-і этап «рэйкавай вайны» (умоўная назва *«Канцэрт»*). У выніку гэтых аперацый рух па чыг. камунікацыях ням. групы армій «Цэнтр» быў паралізаваны. Агульны аб'ём перавозак скараціўся на 40 %. Напрыклад, чыгункі Магілёў — Крычаў, Магілёў — Жлобін не дзейнічалі ўвесь жнівень.

*У. І. Лемяшонак.*

**СМАЛЕ́НСКАЯ БІ́ТВА 1941,** комплекс абарончых і наступальных дзеянняў войск Зах. (камандуючы Маршал Сав. Саюза С. К. *Цімашэнка*), Рэзервовага (ген. арміі Г. К. *Жукаў*), Цэнтр. (ген.-палк. Ф. І. *Кузняцоў*, са жн. ген.-лейт. М. Р. *Яфрэмаў*) і Бранскага (ген.-лейт. А. І. *Яроменка*) франтоў на зах. напрамку 10 ліп.— 10 вер. з мэтай не дапусціць прарыву ням.-фаш. войск да Масквы. Сав. Галоўнакамандаванне з канца чэрв. пачало разгортваць на рубяжы сярэдняга цячэння Зах. Дзвіны і Дняпра ад Краславы да Лоева войскі 2-га стратэгічнага эшалона (22-я, 19, 20, 16, 21-я арміі), якія ў пач. ліп. ўключаны ў склад Зах. фронту. Да пач. наступлення на смаленскім напрамку ім процістаяла група армій «Цэнтр» (2-я і 3-я танк. групы, 9-я і 2-я арміі; камандуючы ген.-фельдмаршал Ф. Бок), пераўзыходзячая войскі Зах. фронту ў людзях, артылерыі і самалётах у 2 разы, у танках у 4 разы. Па характары баявых дзеянняў і баявых задачах С. б. падзяляецца на 4 этапы. На 1-м этапе (10—20 ліп.) ням.-фаш. войскі прарвалі абарону Зах. фронту на яго правым крыле і ў цэнтры. Іх рухомыя злучэнні прасунуліся да 200 км, акружылі Магілёў, захапілі Оршу, Смаленск, Ельню, Крычаў. 19-я, 16, 20-я сав. арміі аказаліся ў акружэнні ў раёне Смаленска. На левым крыле фронту 21-я армія (Кузняцоў) вяла наступленне на бабруйскім напрамку, сіламі 63-га стралк. корпуса (камкор Л. Р. *Пятроўскі*) вызваліла Рагачоў, Жлобін (гл. *Рагачоўска-Жлобінская аперацыя 1941*) і скавала на доўгі час гал. сілы 2-й арміі праціўніка. Акружаныя ў Магілёве часці 172-й стралк. дывізіі 13-й арміі разам з апалчэнцамі змагаліся да 26 ліп. (гл. *Магілёва абарона 1941*). Пад Оршай 14 ліп. ўпершыню выкарыстаны рэактыўныя мінамёты («кацюшы»). На 2-м этапе (21 ліп.— 7 жн.) сав. камандаванне зрабіла спробу арганізаваць на зах. напрамку контрнаступленне, выкарыстаўшы войскі фронту рэзервовых армій. Створаныя для гэтай мэты армейскія аператыўныя групы 29-й, 30, 28, 24-й армій і ген.-маёра К. К. *Ракасоўскага* (былі перададзены ў склад Зах. фронту) нанеслі ўдары з раёнаў Белага і на Пд ад яго, Ярцава і Рослаўля па напрамках на Смаленск з задачай разам з 16-й і 20-й арміямі разграміць групоўку праціўніка на Пн і Пд ад горада. У палосе 21-й арміі ў рэйд па тылах ворага накіроўваліся 3 кав. дывізіі. У ходзе баявых дзеянняў узніклі 2 асн. ачагі барацьбы: адзін у раёнах Смаленска, Ельні, другі на р. Сож і ў міжрэччы Дняпра і Бярэзіны.

Хаця сав. войскі ў ходзе контрнаступлення не змаглі разграміць смаленскую групоўку, яны сарвалі наступленне групы армій «Цэнтр» на Маскву, дапамаглі 20-й і 16-й арміям прарвацца з кальца акружэння. Да 23 ліп. танк. і матарызаванае злучэнні групы армій «Цэнтр» страцілі каля 50 %, пяхотныя — каля 20 % свайго складу. Гэта прымусіла ням.-фаш. камандаванне ўжо ў ліп. 1941 выкарыстаць для ўзмацнення групы армій «Цэнтр» амаль палавіну свайго стратэгічнага рэзерву. 30 ліп. ням. войскі былі вымушаны перайсці на зах. напрамку да абароны. Гітлераўскае кіраўніцтва прыняло рашэнне адкласці наступленне на Маскву да ліквідацыі пагрозы флангам групы армій «Цэнтр», створанай сав. войскамі.

На 3-м этапе (8—21 жн.) цэнтр баявых дзеянняў перамясціўся на Пд. 8 жн. ў наступленне супраць Цэнтр. фронту перайшлі 2-я палявая армія і 2-я танк. група праціўніка. Больш як 2 месяцы баі на гомельскім напрамку стрымлівалі націск праціўніка да вер. 1941 (гл. *Гомеля абарона 1941*). Да 21 жн. праціўніку ўдалося прасунуцца на 120—140 км, выйсці на рубеж Гомель — Старадуб, стварыўшы пагрозу флангу і тылу Паўд.-Зах. фронту. 16 жн. войскі Зах. фронту, 24-й і 43-й армій Рэзервовага фронту пачалі наступленне супраць духаўшчынскай і ельнінскай груповак праціўніка і нанеслі ворагу пад Ельняй цяжкае паражэнне. На 4-м этапе (22 жн.— 10 вер.) войскі Бранскага фронту спрабавалі флангавымі ўдарамі сарваць наступленне часткі сіл групы армій «Цэнтр» у тыл Паўд.-Зах. фронту. Аднак гэтыя спробы не прынеслі поспеху, паветр. аперацыя (460 самалётаў) таксама не дала чаканага выніку. Дзеянні 30-й, 19, 16, 20-й армій Зах. фронту, якія перайшлі 1 вер. ў наступленне, не атрымалі развіцця. У раёне Ельні працягвала наступальныя дзеянні 24-я армія Рэзервовага фронту. Яны завяршыліся 8 вер. разгромам ельнінскай групоўкі праціўніка. 10 вер. войскі Зах., Рэзервовага і Бранскага франтоў па загаду Стаўкі перайшлі да абароны. Гераічнае супраціўленне сав. войск у С. б., якое разгарнулася на фронце да 650 км і ў глыбіню да 250 км, сарвала спробы гітлераўскага камандавання з ходу прарвацца да Масквы, выйграла час для падрыхтоўкі абароны Масквы, падцягвання рэзерваў і наступнага разгрому ворага ў *Маскоўскай бітве 1941—42.* Упершыню ў 2-й сусв. вайне ням.-фаш. войскі былі вымушаны перайсці да абароны на гал. напрамку. У час жорсткіх баёў на Беларусі і Смаленшчыне нарадзілася *гвардыя савецкая.* 23 жн.— 2 вер. кав. група Л. М. *Даватара* ў раёнах Белага, Дзямідава, Духаўшчыны зрабіла рэйд па тылах ворага, прычыніла яму вял. страты. Насельніцтва Беларусі будавала абарончыя рубяжы на Зах. Дзвіне, Лучосе, Дняпры, Сожы, змагалася ў нар. апалчэнні, знішчальных батальёнах, атрадах самаабароны, партыз. атрадах. Партыз. атрад «Чырвоны Кастрычнік» Ц. П. *Бумажкова* ў ліп. правёў больш за 10 баявых аперацый, знішчыў многа ваен. тэхнікі ворага. Ураджэнцам Беларусі А. І. Лізюкову (гл. *Лізюковы*) і К. Н. *Осіпаву* за подзвігі ў С. б. прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

*У. І. Лемяшонак.*

**СМАЛЕ́СКІ** Эдуард Люцыянавіч (1.3.1920, в. Старына Смалявіцкага р-на — 19.2.1984), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Вілейскай вобл. Чл. КПСС з 1949. З 1939 радыётэхнік у Халопеніцкім р-не. Удзельнік сав.-

фінл. вайны 1939—40. З жн. 1941 на фронце, потым камандзір спец. групы ў тыле ворага. З жн. 1942 нач. штаба, у маі — жн. 1943 камандзір партыз. атрада імя Варашылава, у вер. 1943 — ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады імя М. В. Фрунзе.* Пасля вайны на сав., адм.-гасп. і парт. рабоце.

**СМАЛЯВІ́ЦКАЯ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ ТОРФАПРАДПРЫЕ́МСТВА «ЧЫРВОНЫ СЦЯГ».** Дзейнічала ў жн. 1941 — ліп. 1944. Складалася з 2 груп, якія аб'ядноўвалі 53 чал., у т. л. 17 камуністаў і камсамольцаў. У ліку першых у барацьбу супраць акупантаў уключыліся В. З. Гічанскі, М. М. Гнёт, М. А. Зыль, А. П. Караўка, А. Я. Коўрык, Я. С. Мікульскі, Г. В. Цярэшка. Яны ўстанавілі сувязь з камуністамі Р. І. Бяляўскім і А. М. Лапуцькам, якія прыбылі з-за лініі фронту і аказалі патрыётам дапамогу ў наладжванні падп. работы. Кіраўніком групы на торфапрадпрыемстве быў выбраны Караўка, пасля яго гібелі ў студз. 1943 групу ўзначаліў С. В. Раждзественскі. У кастр. 1941 па ўзгадненню з падпольшчыкамі А. Л. Запольскі перабраўся на жыхарства ў Мінск, дзе прыцягнуў да падп. работы свайго брата Я. Л. Запольскага, Г. І. Лапінскага, А. М. Гіцкую, камсамолак В. П. Карабушэнка і М. Ф. Чэкановіч і інш., якія склалі групу падполля (кіраўнік А. Л. Запольскі). Падпольшчыкі торфапрадпрыемства дзейнічалі ў цесным кантакце з партыз. атрадам, пазней брыгадай «Разгром», падтрымлівалі сувязь з падпольшчыкамі Мінскага парт.-камсам. падполля на ЦЭЦ-2.

Патрыёты праводзілі паліт. работу сярод насельніцтва, мелі 2 радыёпрыёмнікі, распаўсюджвалі лістоўкі і зводкі Саўінфармбюро, вывелі са строю 18 торфаздабываючых машын, зрывалі вываз торфу на мінскія электрастанцыі, забяспечвалі партызан адзеннем, зброяй, харчамі, медыкаментамі. У студз. 1943 падпольшчык І. І. Канаразаў вывез з амбулаторыі ў атрад «Разгром» медыкаменты, перавязачны матэрыял, інструментарый і мед. абсталяванне. Падпольшчыкі збіралі і перадавалі партызанам звесткі аб гарнізонах і апорных пунктах ворага. Мінская група перадала карты і схемы ваен. аб'ектаў Мінска і ваколіц. У кастр. 1942 і лютым 1943 падпольшчыкі ўдзельнічалі ў ліквідацыі фаш. гарнізона ў пас. Цэнтральны, у сак. 1943 учынілі дыверсію на электрастанцыі, у маі 1944 узарвалі аўтамашыну з гітлераўцамі.

У барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў загінулі М. М. Гнёт, М. М. Яўсеенка, В. С. Завістоўскі, І. П. Задруцкі, М. А. Зыль, А. П. Караўка, А. Я. Коўрык, І. А. Паўлючык, Г. В. Цярэшка, В. У. Ушакоў. *Л. В. Аржаева.*

**СМАЛЯВІ́ЧЫ,** горад, цэнтр Смалявіцкага р-на, на р. Пліса (бас. Дняпра). За 38 км на ПнУ ад Мінска, чыг. станцыя на лініі Мінск — Орша, каля аўтамабільнай дарогі Мінск — Смаленск, аўтамабільнымі дарогамі звязаны з Чэрвенем, Лагойскам, Смілавічамі, Самахвалавічамі. У 1938—68 гарадскі пасёлак. 6,8 тыс. жыхароў у 1939. 26.6.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў С. і раёне 6380 жыхароў. Дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б (13.10. 1942—2.7.1944) і ЛКСМБ (30.11. 1942—2.7.1944), Смалявіцкая партыйна-камсамольская арганізацыя, партыз. брыгады «Смерць фашызму», «Дзядзькі Колі», «За Савецкую Беларусь», «Чырвоны сцяг», «Разгром», асобныя атрады «Артур» і «Мясцовыя» (гл. адпаведныя артыкулы). Выдавалася падп. газ. *«Смерть фашизму».* Вызвалены 2.7.1944 воінамі 3-га гвардз. Кацельнікаўскага танк. корпуса (ген.-маёр І. А. Воўчанка) і 352-й стралк. дывізіі (ген.-маёр М. М. Стрыжэнка) 31-й арміі 3-га Бел. фронту ў час *Мінскай аперацыі 1944.* У С. 3 брацкія магілы сав. воінаў і партызан, на іх пастаўлены помнікі; помнік у гонар воінаў-вызваліцеляў.

**СМАЛЯКО́Ў** Абрам Яфімавіч (29.5. 1908, г. Крычаў — 3.10.1943), Герой Сав. Саюза (1943). У Чырв. Арміі з 1930. На фронце з 1941. Нам. камандзіра па палітчастцы знішчальнага процітанк. арт. палка маёр С. вызначыўся ў Курскай бітве на Белгарадскім напрамку. Полк, у саставе якога знаходзіўся С., 6—7.7.1943 знішчыў 89 танкаў праціўніка; 30.9. 1943 пераправіўся цераз Дняпро каля Канева і заняў абарону. Калі 3.10. 1943 у контрнаступленні вораг пацясніў нашы войскі, полк адбіў націск праціўніка і аднавіў становішча. У час бою С. вёў агонь з гарматы, разлік якой выйшаў са строю. Загінуў у гэтым баі. Пахаваны ў с. Ляплява Канеўскага р-на Чаркаскай вобл. Яго імем названа вуліца ў Крычаве.

**СМАЛЯ́НСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з ліп. 1941 да ліп. 1944 у в. Смаляны Аршанскага р-на; састаўная частка *Аршанскага партыйна-камсамольскага падполля.* З чэрв. 1943 працавала пад кіраўніцтвам Аршанскага падп. РК КП(б)Б. Аб'ядноўвала 16 чал., у т. л. 4 камуністаў і 4 камсамольцаў. Кіраўнік камуніст Л. І. Красноўскі. Кіраўніцтвам Аршанскага падполля Красноўскі быў накіраваны ў раён в. Смаляны, дзе з дапамогай мясцовых жыхароў У. М. Аўтухова і Д. П. Дзятлоўскага стварыў падп. групу, у якую хутка ўвайшлі У. Я. Міцкевіч, Н. І. і Ф. І. Кунцэвічы, А. Н. Цынкевіч, В. Я. Шыбека і інш. Сувязь з Аршанскім падполлем ажыццяўлялася праз Я. І. Шыбеку. Падпольшчыкі дзейнічалі ў кантакце з камандаваннем *партызанскай брыгады 1-й імя К. С. Заслонава*, спецгрупай «Няўлоўныя» і інш.

Патрыёты праводзілі агітацыйна-прапагандысцкую работу, мелі радыёпрыёмнік, прымалі і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро. Г. А. Прысмакаў, які працаваў па заданню падполля пісарам Смалянскай управы, збіраў і перадаваў партызанам разведданыя, звесткі аб рыхтуемых карных аперацыях. Падпольшчыкі збіралі зброю, боепрыпасы і пераправілялі іх на цэнтр. базу Аршанскага падполля. Падпольшчыца Цынкевіч магнітнымі мінамі падарвала 3 варожыя аўтамашыны.

А. Я. Смалякоў. Ф. А. Смалячкоў.





Помнік Ф. А. Смалячкову каля в. Вараніно Быхаўскага р-на.

У барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў загінулі У. М. Аўтухоў, Д. П. Дзятлоўскі, Л. І. Красноўскі, Н. І. і Ф. І. Кунцэвічы, У. Я. Міцкевіч, В. М. і Г. А. Прысмакавы, А. Н. Цынкеіч, З. Л. Ярмошкіна. У Смалянах у гонар падпольшчыкаў у 1977 устаноўлена мемар. дошка. *М. Ф. Шумейка.*

**СМАЛЯЧКО́Ў** Фядосій Арцёмавіч (1923, в. Падгор'е Быхаўскага р-на — 15.1.1942), Герой Сав. Саюза (1942). Чл. ВЛКСМ. Да вайны працаваў на будоўлях Ленінграда. З 5.7.1941 у 5-й дывізіі нар. апалчэння Выбаргскага р-на Ленінграда, пасля ў асобнай разведроце на Ленінградскім фронце, снайпер. Адзін з ініцыятараў снайперскага руху за адкрыццё асабістага рахунку знішчаных ворагаў. Знішчыў 125 гітлераўцаў. Падрыхтаваў 10 снайпераў. Загінуў у баі. У Ленінградзе, каля в. Вараніно на шашы Магілёў — Гомель, на радзіме С. пастаўлены помнікі. Яго імем названы вуліцы ў Ленінградзе, Мінску (устаноўлена мемар. дошка), Быхаве, саўгас у Быхаўскім р-не, пасёлак у Ленінградскай вобл., гарадскі стралк. клуб ДТСААФ у Ленінградзе.

**СМАРГО́НЬ**, горад, цэнтр Смаргонскага р-на. За 221 км на ПнУ ад Гродна. Чыг. станцыя на лініі Маладзечна — Вільнюс, на аўтамабільнай дарозе Маладзечна — Вільнюс. 5,9 тыс. жыхароў у 1939. У першыя дні вайны на



Помнік на магіле Ю. В. Смірнова ў г. п. Арэхаўск Аршанскага р-на Віцебскай вобл.

падыходах да горада мужна змагаліся курсанты Вільнюскага пях. вучылішча. Акупіравана 25.6.1941 ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў горадзе і раёне 3896 чал. На тэр. раёна дзейнічалі Смаргонскія падп. райкомы КП(б)Б (9.1—2.7.1944) і ЛКСМБ (17.10.1943—2.7.1944), партыз. брыгады імя Варашылава, 2-я імя Суворава, імя Гастэлы, 1-я Віцебская (2-га складу) і імя Будзённага (гл. адпаведныя артыкулы). Вызвалена 5.7.1944 у ходзе *Мінскай аперацыі 1944* воінамі 35-й гвардз. танк. брыгады (камандзір ген.-маёр А. А. Асланаў), 7-й гвардз. механіз. брыгады (палк. М. І. Радзіёнаў) сумесна з *партызанскай брыгадай «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага*. У С. брацкія магілы сав. воінаў і партызан, на іх устаноўлены помнікі, помнік землякам, якія загінулі ў барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі; мемар. дошка ў гонар сав. воінаў і партызан, якія вызвалялі горад ад ням.-фаш. акупантаў. *Н. У. Капранава.*

**СМАРЧКО́Ў** Мікіта Іванавіч (н. 30.4. 1916, с. Трафіменкі Дубровенскага р-на), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Рыбінскі аэраклуб (1936), Балашоўскую ваен. школу лётчыкаў (1941). З 1941 на Калінінскім, Варонежскім, 1-м, 2-м, 3-м Укр. франтах. Удзельнік баёў пад Масквой, Варонежам, на Курскай дузе, Украіне, у Румыніі, Югаславіі, Венгрыі. Камандзір эскадрыллі штурмавога авіяпалка капітан С. зрабіў 196 баявых вылетаў, прычыніў ворагу вял. страты ў жывой сіле і тэхніцы. Пасля вайны да 1977 на адм. і сав. рабоце.

**СМАТРО́Ў** Іван Андрэевіч (22.1.1918, с. Расказань Балашоўскага павета Саратаўскай губерні — 1.5.1975), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Пінскай вобл. З 1939 у Чырв. Арміі. У партызанах з вер. 1942: камандзір аддзялення, нач. разведкі атрада, камісар атрада, з жн. 1943 камісар, у лют.— чэрв. 1944 камандзір *партызанскай брыгады «Савецкая Беларусь»* (Пінская вобл.). З 1944 на сав. і гасп. рабоце ў Пінскай, Сахалінскай, Саратаўскай абл.

**«СМЕРТЬ ОККУПА́НТАМ»**, газета, заснавана ў 1930 пад наз. «Чырвоны барацьбіт». У час ням.-фаш. акупацыі орган Чачэрскага падп. РК КП(б)Б. Вядомы № 1 ад 30.7.1943 на рус. мове. Рэдактар Я. Л. Дуброўскі. З 1945 выдавалася пад наз. «Стаханавец палёў», з 1956 «Шлях перамогі», з 1965 «Трыбуна камунізма», орган Чачэрскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«СМЕРТЬ ФАШИ́ЗМУ»**, газета, заснавана ў 1931 пад наз. «Шлях калектывізацыі». У час ням.-фаш. акупацыі орган Смалявіцкага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 50 нумароў за 1.2.1943—29.5.1944 на рус. мове. Рэдактар В. Бандарчук. Пасля вызвалення выдавалася пад наз. «Трыбуна калгасніка», з 1955 «Ленінскі шлях», з 1965 «Ленінскі заклік», орган Смалявіцкага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«СМЕРТЬ ФАШИ́ЗМУ»**, газета, заснавана ў 1939 пад наз. «Звязда». У час ням.-фаш. акупацыі орган Браслаўскага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 7 нумароў за жн. 1943 — чэрв. 1944 на рус. мове. № 68 за жн. 1943 выйшаў пад назвай «Чырвоны сцяг». Пасля вызвалення выдавалася пад першапачатковай назвай, з 1963 «Браслаўская звязда», орган Браслаўскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«СМЕРТЬ ФАШИ́ЗМУ»**, газета, орган Ломжынскага падп. РК КП(б)Б. Вядомы № 1 ад 1.7.1944 на рус. мове.

**«СМЕРТЬ ФАШИ́ЗМУ»**, газета, орган Любчанскага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 14 нумароў за 1.4 — 29.6.1944 на рус. мове. Рэдактар Н. Працэнка. Пасля вызвалення выдавалася да 1956 пад наз. «Ленінскі шлях», орган Любчанскага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**«СМЕРТЬ ФАШИ́СТАМ»**, газета, орган Радашковіцкага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 12 нумароў за 1.1 — 7.5.1944 на рус. мове. Пасля вызвалення выдавалася да 1960 пад наз. «Сцяг Ільіча», орган Радашковіцкага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**СМІРНО́Ў** Віталь Іванавіч (23.10.1914, в. Белыя Калодзезі Каломенскага павета Маскоўскай губерні — 24.2. 1986), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1941. Скончыў Маскоўскі пед. ін-т імя К. Лібкнехта (1938). З 1939 у Чырв. Арміі. У партызанах з жн. 1941: камандзір групы, камісар атрада, у снежні 1943 — чэрв. 1944 камісар *партызанскай брыгады 258-й імя В. У. Куйбышава*. З 1945 на парт. і прафс. рабоце.

**СМІРНО́Ў** Дзмітрый Іванавіч (26.7. 1901, в. Клімава Чухламскога р-на Кастрамской вобл.— 17.3.1975), Герой Сав. Саюза (1944), ген.-лейтэнант (1945). Чл. КПСС з 1924. У Чырв. Арміі з 1920. На фронце з 1941. Вызначыўся ў *Магілёўскай аперацыі 1944*. 24.6.1944 стралк. корпус пад яго камандаваннем фарсіраваў р. Проня, вызваліў г. Чавусы. За наступныя 4 дні корпус з баямі прайшоў 50 км на З, нанёс праціўніку значныя страты ў тэхніцы і жывой сіле, з ходу фарсіраваў Днягіро і 28.6.1944 вызваліў Магілёў, разграміў рэшткі 12-й ням. дывізіі, захапіў у палон яе штаб і больш за 3 тыс. салдат і афіцэраў. Удзельнік Усх.-Прускай, Усх.-Памеранскай, Берлінскай аперацый. Да 1960 у Сав. Арміі.

**СМІРНО́Ў** Мікалай Аляксандравіч (5.5.1898, Мінск — 19.11.1960), ген-лейт. артылерыі (1958). Чл. КПСС з 1943. У арміі з 1917, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. У Айч. вайну на Паўд., Сталінградскім, 1-м і 4-м Укр. франтах: нам. камандзіра арт. палка, камандуючы артылерыяй дывізіі, корпуса, арміі. Удзельнік Сталінградскай, Курскай бітваў, вызвалення Польшчы, Чэхаславакіі. У 1945—58 на адказных пасадах у Сав. Арміі.

**СМІРНО́Ў** Пётр Іванавіч (30.12.

1915, в. Умлянда Чарапавецкага р-на Валагодскай вобл.—5.2.1972), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1945. З чэрв. 1941 на фронце. У партызанах з чэрв. 1942: арганізатар групы, нам. камандзіра атрада, брыгады, у снеж. 1943 — ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады «25 гадоў БССР»*, адначасова чл. Гарадзішчанскага падп. РК КП(б)Б. З 1944 на сав. і гасп. рабоце ў Баранавічах.

**СМІРНО́Ў** Уладзімір Яфімавіч (18.1. 1924, г. Барнаул — 14.11.1943), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1943. Камандзір аддзялення ст. сяржант С. вызначыўся ў баях за вызваленне Лёзненскага р-на. 12.11. 1943 на чале аддзялення аўтаматчыкаў удзельнічаў у адбіцці контратакі каля хутара Дзярэбішча, знішчыў 12 гітлераўцаў. 14.11.1943 у баі за вышыню каля в. Шумшына закрыў сваім целам варожы кулямёт. Пахаваны ў в. Вялікае Сяло Лёзненскага р-на.

**СМІРНО́Ў** Юрый Васілевіч (2.9.1925, в. Дзешукова Макар'еўскага р-на Кастрамской вобл.— 25.6.1944), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. ВЛКСМ. У 1934 пераехаў у Макар'еў, скончыў там школу ФЗН, працаваў электразваршчыкам у г. Горкі. На фронце з 1943. Стралок гвардыі малодшы сяржант С. вызначыўся пры вызваленні Віцебскай вобл. 24.6. 1944 у складзе танкавага дэсанта прарваўся ў тыл ворага каля в. Шалашына Дубровенскага р-на. Цяжка паранены трапіў у палон. Нягледзячы на катаванні, не выдаў ворагу ваен. тайны і быў распяты на сцяне бліндажа. Пахаваны ў г. п. Арэхаўск. Навечна залічаны ў спісы 1-й роты гвардз. стралк. палка. У в. Шалашына на месцы яго гібелі ў цэнтры саўгаса імя Ю. В. Смірнова, у в. Буда Дубровенскага р-на, у Оршы, Арэхаўску і в. Берасцянёва Аршанскага р-на пастаўлены помнікі; у мемар. комплексе Рыленкі Дубровенскага р-на кампазіцыя адной з 4 стэл прысвечана подзвігу С. Яго імем названы вуліцы ў г. п. Арэхаўск, Гродне, Дзісне, Дуброўне, Мінску, Магілёве, Оршы, Арэхаўская сярэдняя школа. Навечна залічаны ў спісы стралк. палка.

**СМУ́ГА,** вёска на тэр. Акцябрскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на ПнУ ад в. Курын Ламавіцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 205 чал. 2.4.1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 175 жыхароў, у т. л. 95 дзяцей, вёску (30 двароў) спалілі, маёмасць разрабавалі. Пасля вайны не адрадзілася. На яе месцы ўстаноўлены мемар. знак. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь*.



М. І. Смарчкоў. Дз. І. Смірноў. У. Я. Смірноў. Ю. В. Смірноў. І. П. Собалеў. В. І. Соламава.

**СО́БАЛЕЎ** Іван Паўлавіч (н. 11.11. 1907, в. Шапуры Віцебскага р-на), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1938. У Чырв. Арміі з 1927. Скончыў Ленінградскую ваен.-інж. школу (1931). На фронце з 1941. Камандзір асобнага матарызаванага пантонна-маставога батальёна падпалкоўнік С. забяспечыў арганізацыю пераправы і фарсіраванне сав. войскамі водных рубяжоў ад Сталінграда да Берліна і Прагі. Вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра ў вер. 1943 у Днепрапятроўскай вобл. Да 1955 у Сав. Арміі, палкоўнік. Ганаровы грамадзянін Віцебска.

**«СОВЕ́ТСКИЙ ПАТРИО́Т»,** газета, заснавана ў 1930 пад наз. «Калгасны змагар». У час ням.-фаш. акупацыі орган Бягомльскага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 49 нумароў за 23.2.1943— 17.5.1944 на рус. мове (асобныя нумары на бел. і рус. мовах). Рэдактар А. М. Касцяновіч. Пасля вызвалення выдавалася да 1960 пад наз. «Савецкі патрыёт», орган Бягомльскага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**«СОВЕ́ТСКИЙ ПАТРИО́Т»,** газета, заснавана ў 1931 пад наз. «Калгаснік Старобіншчыны». У час ням.-фаш. акупацыі орган Старобінскага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 36 нумароў за 27.6.1943—11.5.1944 на рус. мове. Пасля вызвалення выдавалася пад той жа назвай, з 1965 «Шахцёр», орган Салігорскіх райкома і гаркома КПБ, раённага і гар. Саветаў нар. дэпутатаў.

**СО́ЛАМАВА** Вольга Іосіфаўна (29.5. 1920, в. Лаша Гродзенскага р-на — 2.2.1944), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсам.-маладзёжнага падполля і партыз. руху на тэр. Беластоцкай вобл. Чл. КПСС з 1943. З 1939 настаўніца, заг. пачатковай школы. У 1943 накіравана ў тыл ворага памочнікам упаўнаважанага ЦК ЛКСМБ па Беластоцкай вобл., стварала падп. райкомы. З чэрв. 1943 да 2.2.1944 чл. *Беластоцкага падпольнага абкома ЛКСМБ*, з 1.11.1943 сакратар *Гродзенскага падпольнага гаркома ЛКСМБ*. Вяла агітацыйную работу сярод насельніцтва, стварала падп. камсам. арг-цыі ў партыз. атрадах і населеных пунктах. У складзе *партызанскай брыгады імя Аляксандра Неўскага* выконвала баявыя заданні. У час бою аказалася ў акружэнні; каб не трапіць жывой ў рукі карнікаў, застрэлілася. Пахавана ў Гродне ў брацкай магіле сав. воінаў і партызан. На месцы яе гібелі ў в. Канюхі Бераставіцкага р-на, на радзіме ў в. Лаша і ў Гродне ёй пастаўлены помнікі, яе імем названа вуліца ў Гродне. Ганаровы грамадзянін г. Гродна.

**СО́РАК ВО́СЬМАЯ А́РМІЯ,** сфарміравана ў жн. 1941 на Паўн.-Зах. фронце, вяла абарончыя баі ў раёне Ноўгарада, Чудава, Шлісельбурга. У вер. 1941 расфарміравана. Зноў сфарміравана ў крас. 1942 на Бранскім фронце ў складзе 5 стралк. дывізій, 3 сталк. і 1 танк. брыгад, вяла цяжкія абарончыя баі. У лют. 1943 перайшла ў наступленне, з крас. 1943 у складзе Цэнтр. фронту, удзельнічала ў Курскай бітве, вызваленні Левабярэжнай Украіны і паўд.-зах. часткі Бранскай вобл. Працягваючы развіваць наступленне на гомельскім напрамку, войскі 48-й арміі ва ўзаемадзеянні з 61-й і 65-й арміямі да 10 кастр. поўнасцю ачысцілі ад ворага левы бераг р. Сож, фарсіравалі яе на Пд ад Гомеля і завязалі баі за расшырэнне і ўтрыманне плацдарма на правым беразе ракі. З 10 ліст. ўдзельнічала ў *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943* Бел. фронту. Пры вызваленні г. Рэчыца (17.11.1943) вызначыліся 170-я і 194-я

стралк. дывізіі, 68-я пушачная арт. брыгада, 220-ы гвардз. знішчальны процітанк. арт. полк і 479-ы мінамётны полк, якім нададзены ганаровыя найменні «Рэчыцкіх». Пры вызваленні г. Гомель (26.11.1943) вызначыліся 96-я стралк. дывізія, 231-ы танк. полк, 22-я арт. дывізія прарыву і 57-я інж.-сапёрная брыгада, удастоеныя ганаровых найменняў «Гомельскіх». У перыяд *Беларускай аперацыі 1944* войскі арміі ў складзе 1-га Бел. фронту, наступаючы на бабруйскім напрамку, авалодалі г. Жлобін (26 чэрв.), тут вызначыўся 115-ы УР, якому нададзена ганаровае найменне «Жлобінскага». Ва ўзаемадзеянні з 65-й арміяй войскі поўнасцю разграмілі групоўку ворага, якая была акружана ў раёне Бабруйска, і 29 чэрв. вызвалілі горад ад ням.-фаш захопнікаў (гл. *Бабруйская аперацыя 1944*). У баях за горад вызначыліся 17-я і 137-я стралк. дывізіі, 42-і танк. і 1897-ы самаходны арт. палкі, атрымалі ганаровае найменне «Бабруйскіх». Працягваючы наступленне на баранавіцка-брэсцкім напрамку, армія ва ўзаемадзеянні з войскамі 28-й і 65-й армій у ходзе 3-дзённых баёў разграмілі групоўку праціўніка ў раёне Баранавіч. З вер. 1944 армія ў складзе 2-га, з лют. 1945 — 3-га Бел. франтоў удзельнічала ва Усх.-Прускай аперацыі, у ходзе баёў у сак. 1945 выйшла да заліва Фрышэс-Хаф (цяпер Вісленскі), дзе перайшла да абароны. У пач. мая вяла наступальныя баі на Балтыйскім узбярэжжы. За мужнасць, гераізм, ваен. доблесць і майстэрства ў баях з ням.-фаш. захопнікамі дзесяткі тысяч воінаў арміі ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР, 110 з іх прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Многія злучэнні і часці арміі ўзнагароджаны ордэнамі і ўдастоены ганаровых найменняў.

Камандуючыя: ген.- лейт. С. Дз. Акімаў (жн. 1941), ген.-лейт. М. А. *Антанюк* (вер. 1941), ген.-маёр Р. А. Халюзін (май 1942 — люты 1943), ген.-лейт. П. Л. Раманенка (люты 1943 — снеж. 1944), ген.-лейт., з 5.5.1945 ген.-палк. М. І. Гусеў (снеж. 1944 — да канца вайны).

**СО́РАК ДЗЕВЯ́ТАЯ А́РМІЯ,** сфарміравана ў жн. 1941 у Маскоўскай ваен. акрузе ў складзе 5 дывізій, арт. і інш. часцей. Знаходзілася ў складзе Рэзервовага фронту. З кастр. 1941 у складзе Зах. фронту. У снеж. 1941 — студз. 1942 удзельнічала ў Тульскай і Калужскай, у 1942 — 43 у Ржэўска-Вяземскіх, у 1943 у Смаленскай аперацыях. У канцы жн. 1943, пераадолеўшы лясныя масівы на Пд ад Ельні, злучэнні арміі з ходу фарсіравалі Дзясну і Сож, у ходзе *Смаленскай аперацыі 1943* вызвалілі Мсціслаў (28 вер.) і ў пачатку кастр. выйшлі на р. Проня ў раёне Дрыбіна (35 км на Пн ад Чавус), дзе перайшлі да абароны. З 24.4.1944 армія ў складзе 2-га Бел. фронту. Летам 1944 яна ўдзельнічала ў *Беларускай аперацыі 1944*. У перыяд *Магілёўскай аперацыі 1944* яе войскі прарвалі абарону праціўніка, фарсіравалі Басю, Рэсту і Дняпро і ва ўзаемадзеянні з 50-й арміяй штурмам авалодалі Магілёвам (28 чэрв.). У гэтых баях вызначыліся 64-я, 290-я і 330-я стралк. дывізіі, 233-і танк. полк, 722-і самаходны арт. полк, 143-я армейская пушачная арт. брыгада, 2-я карпусная арт. брыгада, 5-я асобная знішчальная процітанк. арт. брыгада, 16-ы і 55-ы гаўбічныя арт. палкі, 77-ы і 325-ы гвардз. мінамётныя палкі, якім нададзены ганаровыя найменні «Магілёўскіх». Удзельнічала ў *Мінскай аперацыі 1944*. У час *Беластоцкай аперацыі 1944* ва ўзаемадзеянні з інш. арміямі зламіла ўпартае супраціўленне ворага на рубяжы Гродна — Свіслач і выйшла на тэр. Польшчы, да 15 вер. перайшла да абароны на р. Нараў у раёне г. Ломжа. У 1945 армія ўдзельнічала ва Усх.-Прускай, Усх.-Памеранскай і Берлінскай аперацыях, выйшла на р. Эльба, дзе сустрэлася з войскамі 2-й англійскай арміі. За мужнасць, адвагу і баявое майстэрства, праяўленыя асабовым складам арміі ў баях з ням.-фаш. войскамі, дзесяткі тысяч яе воінаў узнаг. ордэнамі і медалямі СССР, 41 з іх прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Многія злучэнні і часці атрымалі ганаровыя найменні і ўзнаг. ордэнамі.

Камандуючыя: ген.-лейт. І. Р. *Захаркін* (жн. 1941 — чэрв. 1943), ген.-лейт., з сак. 1945 ген.-палк. І. Ц. *Грышын* (чэрв. 1943 — да канца вайны). *М. І. Камінскі.*

**СО́РАК ТРЭ́ЦЯЯ А́РМІЯ,** сфарміравана ў ліп. 1941 у рэзерве Стаўкі ВГК на базе 33-га стралк. корпуса. З канца ліп. ў складзе Рэзервовага фронту. З пачатку жн. злучэнні арміі (9 стралк. і 2 танк. дывізій) займалі абарону па р. Дзясна на Пд ад Ельні. З 10.10.1941 армія ў складзе Зах. фронту з баямі адышла на р. Нара, дзе спыніла наступленне ворага. З 1.10.1943 у складзе Калінінскага, з 20.10.1943 — 1-га Прыбалт. франтоў. Удзельнічала ў *Смаленскай аперацыі 1943*, у ліст.— снежн. 1943 у наступальных баях на віцебскім напрамку, у *Беларускай аперацыі 1944*. У час *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944* яе войскі ва ўзаемадзеянні з 6-й гвардз. арміяй прарвалі абарону ворага і часткай сіл ва ўзаемадзеянні з 39-й арміяй 3-га Бел. фронту акружылі групоўку (5 дывізій) ням.-фаш. войск у раёне Віцебска і 26 чэрв. вызвалілі горад, потым завяршылі знішчэнне акружанай групоўкі ворага. У баях за Віцебск вызначыліся 145-я, 204-я, 235-я і 334-я стралк. дывізіі, 39-я асобная гвардз. танк. брыгада, 8-я пушачная арт. дывізія, 37-я гвардз. пушачная арт. брыгада і 1224-ы гаўбічны арт. полк, якім нададзены ганаровыя найменні «Віцебскіх». Пасля вызвалення Лепеля (28 чэрв.) армія, удзельнічаючы ў *Полацкай аперацыі 1944*, наступала на Глыбокае, за 6 сутак прасунулася на 100 км і к зыходу 4 ліп. выйшла ў раён в. Казяны на граніцы з Літоўскай ССР. На тэр. Літвы ўдзельнічала ў вызваленні гарадоў Швенчонеляй, Біржай і інш., у Шаўляйскай, Рыжскай і Мемельскай аперацыях, у блакіроўцы курляндскай групоўкі ворага. У 1945 у складзе 3-га Бел фронту армія ўдзельнічала ў Інстэрбургска-Кёнігсбергскай, Кёнігсбергскай і Зямландскай аперацыях. Закончыла баявы шлях армія ў пач. мая ў складзе 2-га Бел. фронту. У час вайны за мужнасць, адвагу і баявое майстэрства дзесяткі тысяч воінаў арміі ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР. Многія злучэнні і часці арміі ўзнаг. ордэнамі, удастоены ганаровых найменняў.

Камандуючыя: ген.-лейт. П. А. *Курачкін* (жн. 1941), ген.-лейт. Дз. М. Селязнёў (жн.—вер. 1941), ген.-маёр П. П. Сабеннікаў (вер.— кастр. 1941), ген.-лейт. С. Дз. Акімаў (кастр. 1941), ген.-маёр, з 13.6.1942 ген. лейт. К. Дз. *Голубеў* (кастр. 1941 — май 1944), ген.-лейт. А. П. *Белабародаў* (май 1944 — да канца вайны). *М. І. Камінскі.*

**СО́ТНІКАЎ** Сяргей Трыфанавіч (н. 18.11.1920, в. Батунь Магілёўскага р-на), поўны кавалер ордэна Славы. На фронце з 1944. Санінструктар мал. сяржант С. вызначыўся ў баях на тэр. Польшчы і Германіі. 16.8.1944 у час атакі адзін з першых уварваўся ў траншэі праціўніка, знішчыў 14 гітлераўцаў; 2.2.1945 у баі знішчыў 10 гітлераўцаў, 18 узяў у палон; 18—19.4.1945 пад варожым агнём вынес з поля бою 30 параненых, у баях за Берлін — 15. Да 1980 працаваў у саўгасе на радзіме.

**СПЕЦЫЯ́ЛЬНЫЯ ГРУ́ПЫ І АТРА́ДЫ НАРКАМА́ТА ДЗЯРЖБЯСПЕ́КІ БССР,** спец. вайсковыя падраздзяленні, якія дзейнічалі ў тыле праціўніка на тэр. Беларусі з мэтай дэзарганізацыі работы варожага тылу, знішчэння жывой сілы і тэхнікі праціўніка, правядзення разведвальнай і контрразведвальнай работы, палітыка-растлумачальных мерапрыемстваў сярод войск акупантаў і іх сатэлітаў, а таксама сярод створаных фашыстамі антысав., нацыяналістычных узброеных фарміраванняў. Разам з рашэннем спец. задач аказвалі дапамогу нар. мсціўцам падпольшчыкам. Фарміраваліся з ліку чэкістаў, ваеннаслужачых часцей НКДБ (пагранічнікаў), Чырв. Арміі, партызан і падпольшчыкаў. Адной з адметных рыс спецгруп з'яўляўся іх нешматлікі склад. У сваіх дзеяннях кіраваліся загадамі наркома абароны СССР ад 5.9. 1942 «Аб задачах партызанскага руху» і 19.4.1943 «Аб паляпшэнні разведработы партызан», у якіх былі дакладна вызначаны задачы па вядзенню разведкі праціўніка. Вял. ролю ва ўзаемадзеянні партызан і чэкістаў

адыгралі дырэктыва СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 29.6.1941 парт. і сав. арг-цыям прыфрантавых абласцей і пастанова СНК СССР ад 24.6.1941 аб мерапрыемствах па барацьбе з парашутнымі дэсантамі праціўніка. Пад кіраўніцтвам парт. арг-цый у чэрв.—ліп. 1941 чэкісты ўдзельнічалі ў арганізацыі груп і атрадаў па барацьбе з дыверсантамі, якія пазней перараслі ў *знішчальныя батальёны* і атрады *народнага апалчэння*. Так, з 15 да 20.7. 1941 у знішчальныя батальёны накіравана больш за 500 чал. аператыўнага складу супрацоўнікаў НКУС. Спец. атрады і групы адыгралі вял. ролю ў барацьбе супраць ворага ў прыфрантавой зоне, аказалі вял. дапамогу Чырв. Арміі пры абароне Барысава, Віцебска, Бабруйска, Жлобіна, Гомеля, Магілёва і інш. Толькі ў ходзе вулічных баёў у Магілёве смерцю храбрых загінулі амаль усе байцы 2 батальёнаў, якія былі сфарміраваны з ліку супрацоўнікаў і курсантаў школ НКДБ. У 1941 у тыле праціўніка на тэр. Беларусі дзейнічалі 14 партыз. атрадаў, якія налічвалі ў сваіх радах каля 800 супрацоўнікаў КНДБ (гл. *Партызанскі атрад Васілевіцкі, Партызанскі атрад «Васільева», Партызанскі страд Тураўскі, Партызанскі атрад Петрыкаўскі*). У 1942—44 НКДБ Беларусі ажыццявіў закідку дзесяткаў груп на акупіраваную тэр. рэспублікі. Разам з вырашэннем спец. задач камандаванню груп ставілася ў абавязак пад кіраўніцтвам падп. парт. органаў садзейнічаць арганізацыі і станаўленню груп і атрадаў нар. мсціўцаў.

Чэкісты, якія аказаліся на акупіраванай тэр. Беларусі, унеслі значны ўклад у развіццё і станаўленне партыз. руху. У складзе партыз. атрадаў, брыгад і злучэнняў у 1941—44 супраць ворага змагалася больш за 1850 супрацоўнікаў НКДБ і міліцыі. На 1.7.1944, паводле даных БШПР, з ліку чэкістаў 26 былі камандзірамі і камісарамі партыз. атрадаў і брыгад, 12 — начальнікамі штабоў, больш за 70 чэкістаў уваходзілі ў склад абкомаў, гаркомаў, міжрайкомаў і райкомаў КП(б)Б. Рад чэкістаў былі членамі падп. райкомаў ЛКСМБ, кіраўнікамі пярвічных камсам. арг-цый у партыз. атрадах, узначальвалі антыфаш. групы. Яны аказвалі дапамогу нар. мсціўцам у барацьбе супраць спец. службы фаш. Германіі. У 1941—44 на тэр. Беларусі дзейнічала больш за 30 каманд і груп абвера, паліцыі бяспекі і СД, тайнай палявой паліцыі (ГФП), якія актыўна дзейнічалі супраць партызан, падпольшчыкаў і неўзброенага грамадзянскага насельніцтва. Да лета 1944 у партыз. разведцы і контрразведцы працавала больш за 560 камуністаў-чэкістаў, якія сумесна са спецгрупамі і атрадамі НКДБ СССР і БССР змаглі сарваць каварныя намеры нацыстаў па падрыву партыз. руху знутры. За гады вайны імі было выяўлена 22 разведвальна-дыверсійныя школы абвера, 36 рэзідэнтур праціўніка.

Пад кіраўніцтвам КП(б)Б, з дапамогай падпольшчыкаў і сувязных, спецгрупы вялі паліт. работу на акупіраванай тэр. Беларусі: распаўсюджвалі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, газеты, якія выдаваліся падп. парт. к-тамі ці атрыманыя з Вял. зямлі. Дзякуючы палітыка-растлумачальнай рабоце, што праводзілі спецгрупы і атрады сярод войск праціўніка і яго сатэлітаў, а таксама ў створаных фашыстамі антысав., нацыяналістычных узброеных фарміраваннях, у 1942—44 на бок нар. мсціўцаў перайшло больш за 13 тыс. чалавек. Гэта сведчыла аб правале спробы гітлераўцаў уцягнуць некаторую частку сав. людзей у братазабойніцкую вайну. З дапамогай падпольшчыкаў чэкісты за час акупацыі Беларусі знішчылі больш за 10 радыёвузлоў і радыёстанцый, больш як 30 тэлефонных станцый і вузлоў, сур'ёзна парушылі дзейнасць амаль 180 прамысловых прадпрыемстваў, узарвалі 14 электрастанцый, 6 элеватараў і млыноў.

Спецгрупы і атрады НКДБ БССР актыўна шукалі магчымасці па наладжванню сувязей з падп. групамі, якія ўжо дзейнічалі, і стварэнню новых. Вял. дапамогу чэкістам у атрыманні разведвальнай інфармацыі аб гітлераўцах аказвалі камуністы, камсамольцы, беспартыйныя сав. патрыёты. Больш за 9 тыс. падпольшчыкаў і сувязных забяспечвалі спецгрупы і атрады неабходнай інфармацыяй аб праціўніку, якая перадавалася на Вял. зямлю і дазваляла камандаванню Чырв. Арміі ўскрываць планы гітлераўцаў ці ўлічваць яе пры плнаванні аперацый. Так, у перыяд падрыхтоўкі і правядзення *Беларускай аперацыі 1944* чэкісты-разведчыкі *партызанскай групы «Родныя»* і *партызанскага атрада «Храбрацы»* здабылі і перадалі на Вял. зямлю планы гарадоў Вілейка, Вільнюс, Лепель і Маладзечна з указаннем на іх важных аб'ектаў, агнявых рубяжоў і ўмацаванняў праціўніка. З дапамогай падпольшчыкаў Брэста *партызанская група «Іскра»* атрымала каштоўныя разведданыя па горадзе і вобласці, звесткі аб аб'ектах праціўніка на тэр. акупіраванай Польшчы. Выкарыстанне Чырв. Арміяй гэтых звестак спрыяла хуткаму вызваленню Беларусі і захавала жыццё тысячам сав. воінаў. За баявыя заслугі, адвагу і мужнасць, праяўленыя ў баях, шэраг камандзіраў спецгруп і атрадаў былі ўдастоены звання Героя Сав. Саюза: А. С. *Бычак*, М. В. *Зябніцкі*, М. А. *Міхайлашаў*, В. Л. *Няклюдаў*, А. М. *Рабцэвіч*.

*С. М. Сіманаў.*

**СПІВАК** Майсей Лейвікавіч (22.12. 1919, г. Нароўля — 23.7.1943), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1943. З 1941 на Зах. і Цэнтр. франтах. Ад'ютант камандзіра стралк. палка лейтэнант С. вызначыўся ў Курскай бітве. 23.7.1943 у баі за вышыню на ПдУ ад Арла падняў батальён у атаку, прабіўся да р. Неруч, фарсіраваў яе. ураваўся ў варожыя траншэі, захапіў кулямёт, агнём з якога адбіў 3 контратакі, знішчыў каля 20 гітлераўцаў. Загінуў у гэтым баі. Пахаваны на ст. Змiеўка Арлоўскай вобл. Яго імем названа вуліца ў Нароўлі.

С. Т. Сотнікаў. М. Л. Співак.



**СПІРЫДЗЁНКА** Мікалай Кузьміч (12.1. 1917, в. Беразуха, Шумілінскі р-н — 26.12.1980), Герой Сав. Саюза (1945), ген.-маёр (1961). Чл. КПСС з 1942. Скончыў Віцебскі аэраклуб (1937), Барысаглебскую ваен. авіяц. школу лётчыкаў (1938), Ваен-паветр. акадэмію (1950), Ваен. акадэмію Генштаба (1957). Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. З чэрв. 1941 на Паўн.-Зах., Паўд.-Зах., Зах., 2-м Бел. франтах. Камандзір эскадрыллі, нам. камандзіра знішчальнага авіяпалка маёр С. зрабіў 337 баявых вылетаў, удзельнічаў у 85 паветр. баях, збіў асабіста 15 і ў групе 6 самалётаў. Пасля вайны ў Сав. Арміі. У 1962—70 выкладчык ваен. акадэміі.

**СПРОГІС** Артур Карлавіч (6.3.1904, г. Рыга — 3.10.1980), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху на Беларусі і ў Латвіі, палкоўнік (1943). Чл. КПСС з 1920. У Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1940). Удзельнічаў добраахвотнікам у нац.-рэв. вайне ў Іспаніі (1936—37). У 1941—42 асобаўпаўнаважаны разведаддзела штаба Зах. фронту. Партызанская група пад яго камандаваннем удзельнічала ў *Выдрыцкім баі 1942*. У 1943—44 нач. Латвійскага штаба партыз. руху. Пасля вайны на парт. і выкладчыцкай рабоце.

**СС** (ням. SS, скарочанае ад Schutzstaffeln — ахоўныя атрады), адна з гал. арг-цый германскага фашызму і гал. зброя яго тэрарыстычнай чалавеканенавісніцкай палітыкі, адзін з асн. структурных элементаў фаш. партыі і сац. кантролю ў гітлераўскай Германіі.

Створана ў 1925 для паліт. мэт пад выглядам аховы фюрэра і зборышчаў нацысцкай партыі. У 1929 рэйхсфюрэрам СС быў прызначаны Гімлер. Пасля захопу нацыстамі ўлады складалася з вайсковых атрадаў СС і злучэнняў СС «Мёртвая галава», якія прызначаліся для аховы канцлагераў. У 1939 СС «Мёртвая галава» ўлілася ў войскі СС. Арганізацыя СС з'яўлялася актыўным удзельнікам развязвання агрэсіўнай вайны і нападу фаш. Германіі на СССР. Войскі СС вызначаліся выключнай жорсткасцю і фанатызмам.

М. К. Спірыдэнка. І. В. Сталін



На акупіраванай гітлераўцамі тэр. Беларусі палітыку *генацыду* і «выпаленай зямлі» СС ажыццяўляла сіламі 1-й матарызаванай брыгады СС (на 22.6.1941 колькасць 5354 чал.) і 1-й кав. брыгады СС (колькасць 4036 чал.). Акрамя іх СС фарміравалі на тэр. Беларусі з антысавецкі настроеных элементаў, здраднікаў радзімы і крыміпальнікаў асобныя карныя часці і падраздзяленні тыпу асобага батальёна СС пад камандаваннем Дырлевангера і інш. З асабовага складу часцей СС сумесна з СД і паліцыяй бяспекі фарміраваліся мабільныя ваенна-тэрарыстычныя аператыўныя групы (Einsatzgruppe) і каманды (Einsatzkomando), асн. задачай якіх з'яўлялася знішчэнне сав. ваеннапалонных і актыўнай часткі цывільнага насельніцтва, рабаванні і вываз нарабаваных каштоўнасцей, дэпартацыя. СС былі таксама падпарадкаваны 5 асобных паліцэйскіх палкоў, не менш як 19 асобных паліцэйскіх батальёнаў, жандармерыя і інш. спец. часці і падраздзяленні. Кіраўнікамі СС і паліцыі ў генеральнай акрузе «Беларусь» былі каты бел. народа брыгадэнфюрэры Цэнер, Готберг, а таксама вышэйцы кіраўнік СС і паліцыі Расіі «Цэнтр» обергрупенфюрэр СС Эрых фон дэм Бах-Зелеўскі. Пад іх кіраўніцтвам войскі СС ва ўзаемадзеянні з часцямі і падраздзяленнямі вермахта і паліцыі ажыццявілі на тэр. Беларусі вял. колькасць крывавых карных акцый, загубілі сотні тысяч сав. грамадзян (гл. *«Прыпяцкія балоты»*, *«Арол»*, *«Грыф»*, *«Балотная ліхаманка»*, *«Карлсбад»*, *«Нюрнберг»*, *«Фрыда»*, *«Гамбург»*, *«Заяц-бяляк»*, *«Свята ўраджаю»*, *«Горнунг»*, *«Русалка»*, *«Чароўная флейта»*, *«Герман»*, *Карныя аперацыі*, *Акупацыйны рэжым*)

*У. С. Пасэ.*

**СТА́ЙКАЎСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з ліст. 1941 да вер. 1943 у в. Стайкі і Свістуны Багушэўскага р-на пад кіраўніцтвам Багушэўскага падп. РК КП(б)Б. Складалася з партыйнай (12 чал., кіраўнік М. М. Дзятлоўскі) і камсамольскай (47 чал., У. Т. Рыжыкаў) арг-цый. Падпольшчыкі вялі паліт. агітацыю сярод насельніцтва, прымалі па радыё зводкі Саўінфармбюро, пісалі і распаўсюджвалі лістоўкі, зрывалі аднаўленне чыгункі Орша — Віцебск, нарыхтоўку і апрацоўку лесу на лесапільні; зімой 1941—42 захапілі і перадалі партызанам цёплае адзенне і абутак, якія акупанты нарабавалі ў насельніцтва для сваіх войск. Уладкаваўшыся па заданню РК КП(б)Б ва ўстановы акупантаў, падпольшчыкі ратавалі сав. людзей ад вывазу ў фаш. Германію. Перадавалі партызанам боепрыпасы, медыкаменты, харчы, вялі разведку. У маі 1942 да партызан пайшлі падпольшчыкі — камуністы, у жн. 1943 камсамольцы, а таксама больш за 150 мясцовых жыхароў і б. ваеннаслужачых; увосень 1943 з моладзі Стайкаўскага сельсавета створаны партыз. атрад.

У барацьбе супраць акупантаў загінулі: Н. П. Бірыч, С. П. Бірыч, С. Я. Брык, М. Д. Воранаў, П. М. Воранаў, М. Н. Гаравец, В. А. Гуляеў, В. П. Гуляеў, М. П. Гуляеў, В. П. Дзятлоўскі, М. І. Дзятлоўскі, П. Я. Ефімоўскі, З. Р. Зуеў, К. А. Масяніс, А. Ц. Махнач, Л. В. Машарскі, М. Р. Мурашка, У. С. Траян, В. П. Туравец, Я. Л. Уцёнак, М. Л. Шакура, С. Ф. Шарай, Л. Я. Шульга.

*А. Б. Рогаў.*

**СТА́ЙЧАЎКА,** вёска на тэр. Чашніцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на З ад в. Замошша Латыгаліцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 30 чал. 9.5.1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 26 жыхароў, з іх 14 дзяцей, вёску (9 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. На магіле ахвяр фашызму пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**СТА́ЛІН** (сапр. Джугашвілі) Іосіф Вісарыёнавіч (21.12.1879, г. Горы Грузінскай ССР — 5.3.1953), адзін з кіруючых дзеячаў КПСС і Сав. дзяржавы. Генералісімус Сав. Саюза (1945), Герой Сацыяліст. Працы (1939), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1898. Чл. ЦК РСДРП і Рускага бюро ЦК з 1912, чл. ЦК партыі бальшавікоў з 1917, чл. Палітбюро (Прэзідыума) ЦК з 1919. Генеральны сакратар ЦК РКП(б) — ВКП(б) з 1922, адначасова з мая 1941 старшыня СНК (з 1946 Савет Міністраў) СССР. 23.6.1941 увайшоў у склад Стаўкі Гал. Камандавання, з 30 чэрв. старшыня Дзярж. к-та абароны (да 4.9.1945); 10.7.1941 узначаліў Стаўку Вярх. Камандавання, з 19 ліп. нарком абароны (да сак. 1947); з 8.8.1941 Вярхоўны Галоўнакамандуючы Узброенымі Сіламі СССР (да вер. 1945). У 1943 прысвоена званне Маршала Сав. Саюза. У перыяд Айч. вайны Камуніст. партыя, яе ЦК, Палітбюро, Дзярж. к-т абароны на чале з С. правялі вял. работу па мабілізацыі ўсіх сіл краіны і арганізацыі адпору агрэсару, забеспячэнні перамогі над фаш. Германіяй і імперыялістычнай Японіяй. У якасці кіраўніка Сав. ўрада ўдзельнічаў у рабоце Тэгеранскай (1943), Крымскай і Берлінскай (1945) міжнар. канферэнцый.

Асоба С. была вельмі супярэчлівай. У яго дзейнасці мелі месца грубыя паліт. памылкі, адмоўна праяўляліся некаторыя рысы яго асабістага характару, на якія ўказваў У. І. Ленін у «Пісьме да з'езда» (25.12.1922) і ў дадатку да яго ад 4.1.1923. Самавольства, беззаконнасць, масавыя рэпрэсіі, допушчаныя С. і яго акружэннем, мелі цяжкія вынікі для жыцця нашага грамадства, нанеслі вял. страты абараназдольнасці краіны. Па віне С. толькі ў 1937—38 было рэпрэсіравана больш за 40 тыс. чал. вышэйшага і сярэдняга каманднага саставу Чырв. Арміі, у выніку чаго да лета 1941 каля 75 % новых камандзіраў і 70 % палітработнікаў знаходзіліся на сваіх пасадах менш аднаго года. Толькі 7 % камандзіраў мелі вышэйшую адукацыю, 37 % не прайшлі поўны курс навучання нават у сярэдніх ваен. навучальных установах. С. допусціў сур'ёзны пралік у ацэнцы ваен.-паліт. становішча, якое склалася напярэдадні вайны, тэрмінах нападзення фаш. Германіі на СССР. Пераацаніўшы значэнне сав.-германскага дагавора аб ненападзенні (23.8.1939), С. адмовіўся прывесці ў баявую гатоўнасць сав. войскі ў зах. акругах напярэдадні 22.6.1941. Гэтыя і інш. сур'ёзныя памылкі прывялі да таго, што ўжо ў першы дзень вайны 900 нашых баявых самалётаў былі знішчаны на аэрадромах, у 1941 праціўнік захапіў у палон 3,9 млн. салдат і афіцэраў, вял. колькасць зброі, боепрыпасаў і запасаў харчавання, якія былі сканцэнтраваны ў зах. раёнах краіны. Сав. войскі вымушаны былі пакінуць вял. густанаселеную, развітую ў прамысловых і с.-г. адносінах тэрыторыю. Культ асобы С. нанёс сур'ёзны ўрон справе будаўніцтва сацыялізму, міжнар. аўтарытэту нашай краіны і Камуніст. партыі, які быў заваяваны гераічнай працай і ратнымі подзвігамі народа, міжнар. камуніст. і рабочаму руху. КПСС сурова асудзіла культ асобы С. і яго вынікі як з'явы, чужыя духу марксізму-ленінізму, прыродзе сацыяліст. грамадскага ладу, паставіла задачу

пакончыць назаўжды з небяспечнымі яго праяўленнямі: злоўжываннем уладай, парушэннямі сацыяліст. законнасці, прыніжэннем ролі партыі і народных мас у гіст. творчасці. Чл. Выканкома Камінтэрна ў 1925—43. Дэп. ВС СССР з 1937.

**СТАЛІНГРА́ДСКАЯ БІ́ТВА 1942—43,** адна з буйнейшых бітваў Вял. Айч. і 2-й сусв. войнаў. Мела перыяды абарончай (17.7—18.11.1942) і наступальнай (19.11.1942—2.2.1943) аперацый сав. войск на сталінградскім напрамку.

Скарыстаўшы адсутнасць 2-га фронту ў Еўропе, камандаванне ням.-фаш. войск з мэтай выхаду да нафтавых раёнаў Каўказа і ўрадлівых зямель Дона, Кубані, Ніжняй Волгі да лета 1942 сканцэнтравала на паўд. крыле сав.-германскага фронту вял. сілы, перавышаючыя сав. войскі ў людзях у 1,7 раза, у артылерыі і танках у 1,3 раза, у самалётах больш як у 2 разы. Для наступлення на Сталінград з ням. групы армій «Б» была вылучана 6-я армія (камандуючы ген.-палк. Ф. Паўлюс). Абарончая аперацыя сав. войск пачалася 17.7.1942 на далёкіх падыходах да Сталінграда на рубяжы рэк Чыр і Цымла. На працягу 6 сутак перадавыя атрады 62-й і 64-й армій Сталінградскага фронту (камандуючы фронтам Маршал Сав. Саюза С. К. *Цімашэнка,* з 23.7.1942 ген.-лейт. В. М. Гардоў, з 13.8.1942 ген.-палк. А. І. *Яроменка*) аказвалі 6-й арміі жорсткае супраціўленне. Барацьба за гал. палосу абароны пачалася 23 ліп. Намер праціўніка выйсці ў раён Калача і з З прарвацца да Сталінграда быў сарваны. Сав. войскі адышлі на левы бераг Дона, занялі абарону на вонкавым абводзе абароны Сталінграда і спынілі праціўніка. 31 ліп. ням.-фаш. камандаванне вымушана было павярнуць 4-ю танк. армію з каўказскага на сталінградскі напрамак. Стварылася прамая пагроза прарыву да горада з ПдЗ. На гэтым напрамку Стаўка ВГК са складу Сталінградскага фронту вылучыла Паўд.-Усх. фронт (Яроменка), войскі якога нанеслі контрудар і 17 жн. спынілі праціўніка на вонкавым абарончым абводзе. 19 жн. аднačасовымі ўдарамі з З і ПдЗ ням.-фаш. войскі імкнуліся авалодаць Сталінградам. Перагрупаваўшы сілы і кінуўшы ў бой усю авіяцыю 4-га паветр. флоту, праціўнік 23 жн. прарваўся да Волгі ў раёне пас. Рынак на Пн ад Сталінграда, 13.9.1942 пачаў штурм горада. Абарона Сталінграда была ўскладзена на войскі 62-й (ген-лейт. В. І. *Чуйкоў*) і 64-й (ген.-маёр, са снеж. 1942 ген.-лейт. М. С. Шумілаў) армій. Асабліва вызначыліся 13-я і 37-я гвардз., 95-я, 112, 138, 308-я стралк. дывізіі, 84-я танк. брыгада. Фашысты поўнасцю разбурылі горад, але зламаць супраціўленне абаронцаў і авалодаць Сталінградам не змаглі. За час з 17.7 да 18.11.1942 вораг страціў паміж Донам і Волгай да 700 тыс. чал. забітымі і параненымі, больш за 1 тыс. танкаў і штурмавых гармат, больш як 2 тыс. гармат і мінамётаў, больш за 1400 баявых і транспартных самалётаў і вымушаны быў перайсці да абароны. У ходзе абарончых баёў сав. камандаванне распрацавала план контрнаступлення (кодавая назва «Уран») з мэтай акружэння і знішчэння групоўкі ворага ў раёне Сталінграда.

Да пач. наступальнай аперацыі на сталінградскім напрамку былі разгорнуты 3 франты: Паўд.-Зах. (ген.-лейт. М. Ф. Ватуцін), Данскі (ген.-лейт. К. К. *Ракасоўскі*) і Сталінградскі (Яроменка), якія мелі 1103 тыс. чал., 15,5 тыс. гармат і мінамётаў, 1463 танкі і САУ, 1350 баявых самалётаў. Сав. войскам процістаялі італьянская 8-я, румынская 3-я арміі, ням. 6-я палявая і 4-я танк. і румынская 4-я арміі групы армій «Б», якія налічвалі больш за 1011,5 тыс. чал., 10 290 гармат і мінамётаў, 675 танкаў і штурмавых гармат, 1216 баявых самалётаў. Паўд.-Зах. фронту ставілася задача ўдарам ад Серафімовіча на Калач і Савецкі, Сталінградскаму фронту — з раёна Сарпінскіх азёр ударам у сустрэчным напрамку акружыць войскі праціўніка ў міжрэччы Волгі і Дона, Данскому фронту — акружыць і знішчыць ворага ў малым выгіне Дона. Пры адноснай роўнасці сіл сав. войскі стварылі перавагу на напрамках гал. удараў. Контрнаступленне пачалі 19.11. 1942 Паўд.-Зах. і Данскі франты. Каардынаваў іх дзеянні прадстаўнік Стаўкі ген.-палк. А. М. *Васілеўскі.* 20 ліст. перайшоў у наступленне Сталінградскі фронт. Прарваўшы абарону праціўніка, сав. войскі 23.11.1942 злучыліся ў раёне Калача, Савецкага, завяршылі акружэнне 6-й і часткі сіл 4-й танк. ням. армій (22 дывізіі і больш як 160 асобных часцей, 330 тыс. чал.). У 2-й пал. снеж. войскі Сталінградскага фронту разграмілі ням. армейскую групу «Гот», якая наступала з раёна Кацельнікаўскага з мэтай дэблакіравання акружаных войск; войскі Паўд.-Зах. і Варонежскага (ген.-лейт. П. І. Голікаў) франтоў на Сярэднім Доне разбілі 8-ю італьянскую армію і ням.-фаш. аператыўную групу «Холіт». Да пач. студз. 1943 акружаная групоўка праціўніка скарацілася да 250 тыс. чал., да 300 танкаў, 4130 гармат і мінамётаў і 100 баявых самалётаў. Яе ліквідавалі войскі Данскога фронту: з 10.1 да 2.2.1943 узята ў палон звыш 91 тыс. чал., у т. л. больш як 2500 афіцэраў і 24 генералы на чале з фельдмаршалам Паўлюсам; каля 140 тыс. забіта. Усяго з 19.11. 1942 да 2.2.1943 вораг страціў больш за 800 тыс. чал., каля 2 тыс. танкаў і штурмавых гармат, больш як 10 тыс. гармат і мінамётаў, каля 3 тыс. баявых і транспартных самалётаў. За час С. б., якая працягвалася 200 дзён і начэй, фаш. блок страціў 1/4 частку сіл, якія дзейнічалі на сав.-германскім фронце. Агульныя страты ворага забітымі, параненымі, палоннымі і прапаўшымі без вестак — каля 1,5 млн. салдат і афіцэраў. У складзе сав. войск пад Сталінградам геройчна змагаліся многія тысячы ўраджэнцаў Беларусі. Чырвонаармеец А. Я. *Вашчанка* 5.9.1942 у баі пад Сталінградам сваім целам закрыў амбразуру варожага дзота. Партызаны Беларусі ўдарамі па камунікацыях ворага дапамагалі абаронцам Сталінграда. У 2-й пал. 1942 штомесяц яны ўзрывалі 150—160 эшалонаў праціўніка. 4.8.1942 партызаны брыгады «За Савецкую Беларусь» (гл. *Партызанская брыгада імя К. К. Ракасоўскага* Вілейскай вобл.) падарвалі 100-метровы мост цераз Дрысу на чыгунцы Даўгаўпілс — Полацк і спынілі рух на 16 сутак. 28.8.1942 партыз. атрады 8-ы, 24-ы, 36-ы Магілёўскай вобл. разбурылі чыг. ст. Слаўнае на дарозе Мінск — Масква. 3.11.1942 партызаны Мінскай і Палескай абл. падарвалі 137-метровы мост цераз Пціч на чыгунцы Брэст — Гомель, спыніўшы рух на 18 сутак.

Перамогшы пад Сталінградам, Чырв. Армія захапіла стратэгічную ініцыятыву і пачала зімовае наступленне 1942—43 ад Ленінграда да Паўн. Каўказа, адкінула ворага на асобных напрамках на 600—700 км. Пачалося масавае выгнанне акупантаў з сав. зямлі. Перамога пад Сталінградам была пачаткам карэннага пералому ў ходзе Вял. Айч. і 2-й сусв. войнаў. Камуніст. партыя і Сав. ўрад высока ацанілі подзвіг герояў Сталінграда. 183 часці, злучэнні і аб'яднанні былі пераўтвораны ў гвардзейскія, 55 злучэнняў і часцей узнаг. ордэнамі, 112 воінам прысвоена званне Героя Сав. Саюза. 22 снеж. 1942 Прэзідыумам ВС СССР устаноўлены медаль «За абарону Сталінграда», ім узнаг. больш як 700 тыс. удзельнікаў бітвы. У Валгаградзе на Мамаевым кургане ўзведзены помнік-ансамбль героям С. б. У 1965 горад-герой быў узнаг. ордэнам Леніна і медалём «Залатая Зорка». *А. К. Кузуб.*

**«СТА́ЛІНЕЦ»,** газета. заснавана ў 1932. У час ням.-фаш. акупацыі орган Бешанковіцкага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 9 нумароў за 16.7.1943—16.3.1944 на рус. мове. Рэдактары Г. П. Шалахава, А. Ф. Мацулевіч. Пасля вызвалення выдавалася пад той жа назвай, з 1956 «За Радзіму», з 1957 «Зара», орган Бешанковіцкага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«СТА́ЛІНЕЦ»,** газета, заснавана ў 1935. У час ням.-фаш. акупацыі орган Грэскага падп. РК КП(б)Б. Вя-

домы 61 нумар за 27.6.1943—1.7.1944 на бел. мове (асобныя нумары і часткова тэкст інш. нумароў на рус. мове). Рэдактар Т. М. Беразоўскі. Пасля вызвалення выдавалася пад той жа назвай, у 1956 «За камунізм», орган Грэскага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**«СТА́ЛИНСКАЯ МОЛОДЁЖЬ»,** газета, заснавана ў 1938. У час ням.-фаш. акупацыі орган ЦК і Мінскага падп. абкома ЛКСМБ. Вядомы 3 нумары за 2—26.9.1943 на рус. мове. Рэдактар І. А. *Матыль*. Пасля вызвалення выдавалася пад той жа назвай, з 1956 «Знамя юности», орган ЦК ЛКСМБ.

М. І. Сталяроў. А. К. Стампкоўская.



**«СТА́ЛІНСКАЯ ПРА́ЎДА»,** газета, заснавана ў 1931 пад назвай «Калгаснік Петрыкаўшчыны». У час ням.-фаш. акупацыі орган Петрыкаўскага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 16 нумароў за 20.6—17.11.1943 на бел. мове. Рэдактар А. К. Курапаценка. Пасля вызвалення выдавалася пад той жа назвай, з 1956 «Сцяг Кастрычніка», з 1963 «За новыя рубяжы», орган Петрыкаўскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«СТА́ЛІНСКІ ШЛЯХ»,** газета, заснавана ў 1935. У час ням.-фаш. акупацыі орган Багушэўскага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 2 нумары за 5.10 і 7.11.1943 на рус. мове. Рэдактар Дз. Г. Хвошч. Пасля вызвалення да 1956 выдавалася пад той жа назвай, да 1960 «Чырвоны Кастрычнік», орган Багушэўскага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**«СТА́ЛІНСКІ ШЛЯХ»,** газета, заснавана ў 1940. У час ням.-фаш. акупацыі орган Стрэшынскага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 7 нумароў за 13.9—11.11.1943 на бел. мове. Рэдактар М. П. Кручкоў. Пасля вызвалення выдавалася пад той жа назвай, у 1956 «Ленінскі заклік», орган Стрэшынскага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**«СТА́ЛИНСКИЙ ПРИЗЫ́В»,** газета, заснавана ў 1931. У час ням.-фаш. акупацыі орган Касцюковіцкага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 3 нумары за 28.7—3.9.1943 на рус. мове. Рэдактар І. Б. Ісачанка. Пасля вызвалення выдавалася на бел. мове пад той жа назвай, з 1956 «Сцяг камунізма», орган Касцюковіцкага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«СТА́ЛИНСКОЕ ПЛЕ́МЯ»,** газета, орган *Барысаўскага падпольнага міжрайкома ЛКСМБ*. Вядомы 7 нумароў за 21.4—3.8.1943 на рус. мове. Рэдактар У. Дз. Бухарын (Гранаў).

**СТАЛЯРО́Ў** Георгій Мікалаевіч (май 1916, с. Трапезіна Велікалуцкага пав. Пскоўскай губ. — 12.8.1954), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1944. З 1939 у Чырв. Арміі. У партызанах з жн. 1941: камандзір групы, атрада, у снеж. 1943 — чэрв. 1944 камандзір *партызанскай брыгады 258-й імя В. У. Куйбышава* Пінскай вобл. Пасля вайны на гасп. рабоце ў Мінску.

**СТАЛЯРО́Ў** Мікалай Іванавіч (20.5.1919, г. Крычаў — 14.8.1985), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Чугуеўскае ваен. авіяц. вучылішча (1940). З пачатку вайны ў Закаўказскай ваен. акрузе, потым на Сталінградскім, Калінінскім, Паўд.-Зах., 2-м Укр. франтах. Нам. камандзіра эскадрыллі лейтэнант С. вызначыўся ў баях пад Сталінградам. За час вайны зрабіў 310 баявых вылетаў, правёў 67 паветр. баёў, збіў 6 самалётаў праціўніка, 4 у групе. Да 1960 у Сав. Арміі, палкоўнік, потым да 1970 на адм. і гасп. рабоце.

**СТАМПКО́ЎСКАЯ** Алена Канстанцінаўна (1921, в. Мазуршчына Салігорскага р-на — 26.6.1942), Герой Сав. Саюза (1946). Чл. ВЛКСМ. Да вайны студэнтка Ташкенцкага пед. ін-та. З 1941 на Паўд.-Зах. фронце. Радыстка мал. сяржант С. вызначылася ў чэрв. 1942 у баі каля в. Зімавенькі Шабекінскага р-на Белгарадскай вобл. У час прарыву батальёна з варожага акружэння забяспечвала сувязь з камандаваннем палка, у саставе роты прыкрывала адыход асн. сіл. Загінула ў гэтым баі. Яе імем названа вуліца ў Ташкенце, школа ў кішлаку Баяут Узбекскай ССР, дзе яна вучылася.

**СТАНКЕ́ВІЧ** Антон Васілевіч (1915, в. Любча Барысаўскага р-на — 15.2.1944), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1943. Перад Айч. вайной на сав. і парт. рабоце ў Скідзельскім р-не. У партызанах з студз. 1942: камандзір групы, узвода, атрада, з вер. 1943 камандзір *партызанскай брыгады імя Ленінскага камсамола.* Загінуў у баі. Яго імем названа вуліца ў г. п. Астрына.

**СТАНКЕ́ВІЧ** Гемел Міхайлавіч (8.3.1924, в. Сяліба Быхаўскага р-на — 5.1.1962), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1948. Скончыў 1-е Харкаўскае танк. вучылішча (1944), юрыдычны ін-т (1955). На фронце з 1944. Камандзір танк. ўзвода мал. лейтэнант С. вызначыўся ў баях за г. Губен (Германія). 24.2.1945 узвод С. прарваў абарону ворага, першы ўварваўся ў горад. За 4 дні баёў экіпаж танка С. знішчыў 3 самаходныя гарматы, 2 танкі, 4 гарматы, 3 мінамёты і каля 180 гітлераўцаў. Да 1951 у Сав. Арміі. Пасля працаваў следчым. Яго імем названа вуліца ў г. Быхаў.

**СТАНКЕ́ВІЧ** Іван Паўлавіч (18.1.1902, в. Глухская Сяліба Быхаўскага р-на — 26.1.1980), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1921. У 1920—22 на сав. рабоце, у атрадзе ЧОН. З 1928 на будаўніцтве, парт. рабоце, з 1941 1-ы сакратар Крычаўскага РК КП(б)Б. У пачатку Айч. вайны пакінуты ў тыле ворага, з ліп. 1941 у партызанах: палітрук, радавы, з ліп. 1942 камісар атрада, адначасова ў студз.— крас. 1943 пам. упаўнаважанага ЦК КП(б)Б па Магілёўскай вобл.; у жн. 1943 — чэрв. 1944 сакратар Магілёўскага падп. РК КП(б)Б, адначасова кіраўнік *Магілёўскай ваенна-аператыўнай групы*, у маі — чэрв. 1944 чл. Магілёўскага падп. абкома КП(б)Б. У 1944—64 на парт., адм.-гасп., прафс. і гасп. рабоце.

**СТАНКЕ́ВІЧ** Станіслаў (1907, в. Арляняты Смаргонскага р-на — 1980, ЗША), паслугач ням.-фаш. акупантаў. Скончыў Віленскі ун-т (1933). З 1941 бургамістр Барысава, з 1943 Баранавіч. У 1944 збег у Германію. Пасля вайны рэдактар нацыяналіст. газет «Бацькаўшчына», «Беларус», супрацоўнік радыё «Свабода».

**СТАНКЕ́ВІЧ** Уладзімір Адамавіч (18.9.1903, в. Баянава Глускага р-на — 19.10.1971), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Палескай вобл. Чл. КПСС з 1940. З 1931 на адм.-гасп. і сав. рабоце ў Глускім р-не. У партызанах з чэрв. 1941: радавы, камандзір узвода, роты, камісар атрада, у кастр. 1943 — чэрв. 1944 *партызанскай брыгады 225-й*, адначасова чл. Глускага падп. РК КП(б)Б. З 1944 на парт., сав., адм.-гасп. і гасп. рабоце.

**СТАРАВО́ЙТАЎ** Іван Ісакавіч (н. 15.1.1909, в. Забалоцце Лёзненскага р-на), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1938. З 1931 у Чырв. Арміі. У партызанах з крас. 1942: палітрук роты, з кастр. 1942 камісар атрада, у маі 1943 — ліп. 1944 — *партызанскай брыгады імя А. Ф. Данукалава*, адначасова ў маі 1943 — чэрв. 1944 сакратар Дубровенскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—63 на прафс., парт. і гасп. рабоце ў Мінску.

**СТАРАВО́ЙТАЎ** Міхаіл Антонавіч (7.6.1923, в. Якімавічы Клімавіцкага р-на — 11.4.1944), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. ВЛКСМ. З 1941 на Зах., Паўд.-Зах., Сцяпным, 3-м Укр. франтах. Вызначыўся пры фарсіраванні Паўд. Буга ў Адэскай вобл. 23.3.1944 пад агнём праціўніка група

аўтаматчыкаў, у складзе якой быў С., пераправілася цераз раку, захапіла плацдарм і ўтрымлівала яго да падыходу сав. войск. 25—26.3.1944 удзельнічаў у адбіцці 9 контратак, 5 разоў хадзіў у атаку, у рукапашным баі С. знішчыў 7 гітлераўцаў. Памёр ад ран. Яго імем названы вуліца ў г. Клімавічы, школа ў в. Мілаславічы Клімавіцкага р-на.

**СТАРАДАРО́ЖСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала ў ліп. 1941 — чэрв. 1944 у г. Старыя Дарогі і Старадарожскім р-не. З ліп. 1941 кіраўніцтва падполлем ажыццяўлялі П. К. Грынкевіч, Р. І. Ручан, А. І. Шуба, М. Н. Белы, М. К. Лізунок, з чэрв. 1942 — камандаванне партыз. атрада «Народныя мсціўцы» (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 100-я імя С. М. Кірава*), з сак. 1943 — Старадарожскі падп. РК КП(б)Б. Аб'ядноўвала каля 150 чал., 8 груп: у г. Старыя Дарогі (кіраўнікі Белы, Шуба, В. І. Цераховіч), в. Навасёлкі (Грынкевіч, Ручан, В. Я. Мельнік), в. Слабодка (І. І. Жукавец), в. Солан (С. Ю. Доўнар, М. А. Коршун), в. Залужжа (І. І. Рабцаў, А. Я. Шчыткавец), в. Горкі (М. К. Ільінчык), в. Пад'ямнец (С. М. Раманчук), в. Урбанаўка (У. І. Івашка, В. Ф. Кнарус).

Падпольшчыкі мелі 4 радыёпрыёмнікі, прымалі паведамленні сав. радыё, пісалі і распаўсюджвалі лістоўкі, вялі вусную прапаганду сярод насельніцтва, асабовага саставу т. зв. «добраахвотніцкіх» фарміраванняў і паліцыі. Знішчалі тэлефонную сувязь, спальвалі масты на р. Арэса, збівалі ўказальнікі на дарогах, падарвалі лесапільны з-д у Старых Дарогах, дамы начальніка раённай паліцыі і гар. галавы, будынак школы ў в. Падарэссе, дзе размяшчаўся ваен. гарнізон, ажыццявілі буйную дыверсію ў сталовай на тэр. ваен. гарадка, двойчы арганізоўвалі ўцёкі ваеннапалонных.

У чэрв. 1942 на базе групы, вылучанай з саставу падп. арг-цыі, створаны атрад «Народныя мсціўцы», які вырас у партыз. брыгаду 100-ю імя С. М. Кірава. Падпольшчыкі пераправілі партызанам больш за 200 вінтовак, 12 кулямётаў, вял. колькасць снарадаў, гранат і патронаў. У в. Урбанаўка арганізавалі майстэрню па рамонце зброі. Забяспечвалі партызан медыкаментамі і перавязачным матэрыялам, паперай капіравальнай і для пісьма, харчамі і адзеннем. Сабралі звыш 75 тыс. рублёў у фонд дапамогі Чырв. Арміі. Здабывалі звесткі аб узбраенні і колькасці варожых гарнізонаў у г. Старыя Дарогі, вёсках Горкі, Дражно, на станцыях Урэчча, Фамічы, аб перамяшчэнні войск і перавозцы ваен. грузаў па чыгунках і шашэйных дарогах, аб намечаных гітлераўцамі і паліцыяй акцыях супраць партызан і насельніцтва і г. д. Саставілі карту ваен. аб'ектаў у г. Старыя Дарогі, план аэрадрома, выкралі ў раённай управе і перадалі партызанам больш як 100 бланкаў «аўсвайсаў» і інш. дакументаў акупац. рэжыму. На працягу 1942—43 большасць падпольшчыкаў пайшла ў партызаны. Да прыходу Чырв. Арміі ў падполлі працягвалі работу члены Навасёлкаўскай і Старадарожскай падп. груп.

У барацьбе супраць ням.-фаш. акупантаў загінулі: І. І. Амяльчэня, Б. А. Гуткоўскі, М. Дз. Дарошка, Г. Н. Жукавец, В. Я. Жукавец, І. П. Жукавец, Х. І. Жукавец, Г. В. Каралёва, П. І. Кунтыш, А. К. Навуменка, А. Н. Федарэнка, А. М. Цагойка. *Ю. А. Капіца.*

**СТАРО́БІН,** гар. пасёлак у Салігорскім р-не, на р. Случ. За 12 км на Пд ад Салігорска, аўтадарогамі звязаны з Салігорскам, Любанню, Мікашэвічамі. У 1924—62 цэнтр раёна. З 1938 гар. пасёлак. 3,4 тыс. жыхароў у 1939. 26.6.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў пасёлку і раёне 2886 чалавек. У С. было падполле, на тэр. раёна дзейнічалі Старобінскія падп. райкомы КП(б)Б (12.3.1943—1.7.1944) і ЛКСМБ (1.7 — ліст. 1941, 19.3.1943—1.7.1944), партыз. брыгады 37-я імя Пархоменкі, 64-я імя Чкалава, 12-я кав. імя Сталіна, 101-я імя Аляксандра Неўскага, 121-я імя А. Ф. Брагіна, 258-я імя Куйбышава (гл. адпаведныя артыкулы); выдавалася падп. газ. *«Советский патриот»*. У вер. 1942 партызаны пры дапамозе падпольшчыкаў пасёлка разграмілі гарнізон у С. (гл. ў артыкуле *Старобінскія баі 1942, 1944*). 29.6.1944 партызаны брыгады імя Аляксандра Неўскага (камандзір М. Дз. *Курыльчык*) з боем занялі С. і ўтрымлівалі яго да падыходу 1—2.7.1944 воінаў 1-га механіз. корпуса (ген.-лейт. танк. войск С. М. *Крывашэін*) конна-механіз. групы 1-га Бел. фронту. У гар. пасёлку брацкія магілы ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі; помнікі землякам, што загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе, і на магіле Героя Сав. Саюза Дз. Ц. *Гуляева*; мемар. комплекс сав. воінам, партызанам і землякам, якія ўдзельнічалі ў барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі (за 2 км ад С., на аўтадарозе Старобін-Салігорск).

**СТАРО́БІНСКІЯ БАІ́ 1942, 1944,** баі партызан атрада У. М. *Антановіча* (пазней атрад імя П. К. Панамарэнкі) і падраздзялення Ф. І. *Шырына* з атрада «Камарова» (гл. ў арт. *Партызанская брыгада імя С. М. Будзённага*) 16.9.1942, *партызанскай брыгады 101-й імя Аляксандра Неўскага* 29.6.1944 супраць ням.-фаш. захопнікаў у г. п. Старобін.

З дапамогай падпольшчыкаў пасёлка партызанам у ноч на 16.9.1942 удалося авалодаць Старобінам. Бой цягнуўся з 2 гадз ночы да раніцы. Народныя мсціўцы знішчылі больш за 20 гітлераўцаў, захапілі значныя трафеі, за 3 км ад пасёлка пашкодзілі тэлефонна-тэлеграфную лінію сувязі. Патрыёты ўліліся ў рады партызан.

У чэрв. 1944 Старобінскі гарнізон налічваў больш за 1 тыс. гітлераўцаў, узброеных 37 кулямётамі, 6 мінамётамі, аўтаматамі і вінтоўкамі, быў умацаваны дзотамі, акопамі з хадамі зносін, драцянымі загародамі. Пры набліжэнні Чырв. Арміі гітлераўцы мелі намер вывезці насельніцтва Старобіна на З, а таксама матэрыяльныя каштоўнасці, пасёлак знішчыць. Камандаванне партыз. брыгады 101-й імя Аляксандра Неўскага распрацавала план вызвалення пасёлка і авалодання пераправамі цераз р. Случ да падыходу Чырв. Арміі. Кіравалі аперацыяй камандзір брыгады М. Дз. *Курыльчык* і камісар В. Ц. *Меркуль*. У ёй удзельнічалі таксама партызаны атрада імя К. Я. Варашылава (камандзір І. А. Некрашэвіч) партыз. брыгады імя Будзённага.



Г. М. Станкевіч. М. А. Старавойтаў.

У ноч на 29.6.1944 партызаны ў складзе 586 чал., узброеныя 38 станковымі і ручнымі кулямётамі, 4 мінамётамі, 3 ПТР, а таксама 38 аўтаматамі і вінтоўкамі, занялі зыходныя пазіцыі каля г. п. Старобін. Атрад імя П. С. Ламейкі заняў вёскі Камень, Бярозаўка і Язовіні Старобінскага р-на, каб перакрыць магчымы падыход падмацаванняў з боку г. п. Любань і в. Пагост. Атрад імя Дз. Ц. Гуляева для стварэння панікі ў гарнізоне ў 2 гадз ночы 29.6.1944 наблізіўся да р. Случ на Пн ад паромнай пераправы і адкрыў кулямётны агонь у бок гарнізона. Агульнае наступленне на гарнізон пачалося ў 2 гадз 29.6.1944. Аднachасовай атакай атрадаў імя Гуляева і імя Сталіна з ПнУ і атрадаў імя М. І. Бандараўца і імя Варашылава з Пд пасля няпрацяглага бою праціўнік быў выбіты са Старобіна і ў паніцы ўцякаў у напрамку пас. Чырв. Слабада. У выніку бою партызаны авалодалі Старобінам і пераправамі цераз р. Случ, арганізавалі іх абарону і ўтрымлівалі пасёлак да падыходу 1—2.7.1944 часцей Чырв. Арміі. У баі за Старобін партызаны знішчылі 32 і ўзялі ў палон больш за 120 гітлераўцаў, захапілі 180 вінтовак, 12 аўтаматаў, 6 кулямётаў. Дзякуючы дзеянням нар. мсціўцаў удалося захаваць насельніцтва ад вывазу ў Германію і выратаваць частку будынкаў пасёлка.
*У. С. Пасэ, М. Ф. Шумейка.*

**СТАРО́НКА,** вёска на тэр. Асіповіцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 4 км на ПдУ ад в. Старое Сяло Карытненскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 168 чал. У жн. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 101 жыхара, вёску (36 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**СТА́РЦАВА** Ніна Іларыёнаўна (8.8. 1925, в. Бярозна Гарадоцкага р-на — 16.1.1943), член падп. камсамольскай арг-цыі «Маладая гвардыя». Чл. ВЛКСМ. З 1937 жыла ў пас. Краснадон Варашылаўградскай вобл. У жн. 1942 падпольшчыкі з удзелам С. спалілі збожжа, вывелі ў стэп жывёлу, падрыхтаваную для вывазу ў Германію. З кастр. 1942 чл. «Маладой гвардыі», агітавала шахцёраў зрываць аднаўленне шахты. Удзельнічала ў выданні і распаўсюджванні лістовак, у дыверсіях па знішчэнню ліній тэлефоннай сувязі, ратавала моладзь ад вывазу на катаргу ў Германію. Напярэдадні 25-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі з падпольшчыкамі вывесіла чырв. сцягі на шахце і будынку бальніцы. 12.1.1943 арыштавана. Мужна трымалася на допытах. Акупанты жывой скінулі яе ў 50-метровы шурф шахты. Пахавана ў пас. Краснадон, дзе імем С. названа вуліца.

**СТАРЫНА́,** вёска на тэр. Уздзенскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1,5 км на З ад в. Валодзькі Возерскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло каля 50 чал. 2.1.1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 47 жыхароў, у т. л. 12 жанчын і 24 дзяцей, вёску (9 двароў) спалілі, маёмасць разрабавалі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1956 на месцы вёскі пастаўлена стэла. У 1957 астанкі ахвяр фашызму перазахаваны ў в. Валодзькі, на магіле пастаўлены абеліск, дзе названы прозвішчы загінуўшых. Вёска ўвекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**СТА́РЫНАЎ** Ілья Рыгоравіч (н. 2.8. 1900, с. Вайнова Болхаўскага р-на Арлоўскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху, палкоўнік, прафесар. Чл. КПСС з 1924. У Чырв. Арміі з 1919, удзельнік грамадз. вайны 1918—20. Скончыў Ваенна-транспартную акадэмію (1935). У час грамадз. вайны ў Іспаніі ў 1936—37 быў саветнікам пры спец. партыз. злучэнні. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У пачатку Вял. Айч. вайны на Зах. фронце: нач. аператыўна-інжынернай групы, аператыўна-навучальнага цэнтра, які рыхтаваў мінёраў і інструктараў мінна-падрыўной справы для партызан Беларусі (гл. ў арт. *Школа ЦК КП(б)Б і Аператыўна-навучальны цэнтр).* З вер. 1941 нач. аператыўна-інжынернай групы на Паўд.-Зах. фронце. Па заданню Генштаба правёў аперацыю па вываду з дапамогай кіруемых па радыё мін важных аб'ектаў у акупіраваным Харкаве (ліст. 1941). У 1942 камандзір брыгады спец. прызначэння на Калінінскім фронце, пам. начальніка ЦШПР. У 1942—43 начальнік Цэнтр. партыз. школы і начальнік штаба партыз. руху на Паўд. фронце. З крас. 1943 нам. начальніка Украінскага штаба партых. руху, з чэрв. 1944 нам. начальніка Польскага штаба партыз. руху. З вер. 1944 начальнік штаба сав. ваен. місіі ў Югаславіі. Пасля вайны да 1958 на выкладчыцкай рабоце ў ваен. ВНУ.

**СТАРЫ́НСКІ** Мікалай Васілевіч (студз. 1909, в. Дварэц Чашніцкага р-на — 24.2.1949), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1941. З 1926 працаваў на чыгунцы. У партызанах з чэрв. 1942: радавы, інструктар Чашніцкага падп. РК КП(б)Б, з сак. 1943 камісар атрада, у ліп. 1943 — лют. 1944 — *партызанскай брыгады Чашніцкай «Дубава»,* адначасова чл. Чашніцкага падп. РК КП(б)Б.

**СТА́РЫЦКІ БОЙ 1942,** бой атрадаў *партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава* супраць карнай экспедыцыі ням.-фаш. захопнікаў у Старыцкім лесе Капыльскага р-на 7 лістапада.

У пач. лістапада гітлераўцы сканцэнтравалі ў гэтым раёне паліцэйскі полк, 2 ахоўныя батальёны, арт. і танк. роты, роту сувязі; 7 ліст. занялі в. Заполле, Слабада-Кучынка, Свідзячы, Русакі і адрэзалі партызанам шлях на З. Пасля арт.-мінамётнай падрыхтоўкі гал. сілы карнікаў пачалі наступаць з Пд і У на пазіцыі атрадаў імя Шчорса і імя Чапаева. З Пд атрад імя Шчорса атакавала танк. рота з дэсантам. Партызаны падбілі галаўны танк, падпалілі другі, збілі з танкаў дэсант і расстралялі. Гітлераўцы тройчы спрабавалі прарвацца на гэтым участку, страцілі 3 танкі, 2 бронемашыны і адступілі. Атрад імя Чапаева адбіў каля 10 атак праціўніка, двойчы сам пераходзіў у контратакі. На дапамогу Старыцкаму гарнізону партызан з Вялешынскага лесу падышоў атрад імя Катоўскага, ён разбіў аўтакалону гітлераўцаў і ўдарыў па карніках з тылу. Калі ў партызан скончыліся боепрыпасы, яны па загаду камандавання пакінулі абарону і адышлі ў Вялешынскі лес. Карная аперацыя гітлераўцаў супраць партызан была сарвана.

*В. С. Лазебнікаў.*

**СТАРЫ́Я ДАРО́ГІ,** горад, цэнтр Старадарожскага р-на. За 148 км на ПдУ ад Мінска, чыг. станцыя на лініі Баранавічы — Асіповічы, на аўтадарозе Слуцк — Бабруйск. 4,2 тыс. жыхароў у 1939. У пач. вайны пасля прарыву абароны сав. войск пад Слуцкам (26—27 чэрв.) ням. 3-я і 4-я танк. дывізіі натрапілі на шматлікія загароды на рубяжы Амговічы—Каліта на З ад С. Д. і ўпартае супраціўленне зводных атрадаў 14-га механіз. корпуса (палк. І. В. Тутарынаў). Каб зламаць супраціўленне сав. войск, ням. камандаванне кінула танкі з пяхотай у абход горада з Пн. 27 чэрв. яны прарваліся ў раён С. Д. Сав. воіны вымушаны былі адступіць за Бярэзіну. 28.6.1941 горад акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 24.7.1941 у час контрнаступлення войск Зах. фронту на бабруйскім напрамку па тылах ням. групы армій «Цэнтр» быў ажыццёўлены рэйд зводнай кав. групы (ген.-палк. А. І. Гарадавікоў) у складзе 32-й, 43-й, 47-й кав. дывізій. Зрабіўшы 60-кіламетровы марш, 43-я і 47-я кав. дывізіі з ходу авалодалі горадам і ўтрымлівалі яго некалькі дзён, але пад націскам намнога большых сіл праціўніка вымушаны былі адступіць. За час акупацыі ням.-фаш. захопнікі загубілі ў С. Д. і раёне 1423 чал., горад разбурылі. У С. Д. і раёне дзейнічалі *Старадарожскае партыйна-камсамольскае падполле,* Старадарожскія падп. РК КП(б)Б (21.3.1943—28.6.1944) і ЛКСМБ (снеж. 1942—28.6.1944), партыз. брыгады 2-я Мінская, 3-я Мінская імя Будзённага, 64-я імя Чкалава, 99-я імя Дз. Ц. Гуляева, 100-я імя Кірава, 130-я Петрыкаўская, асобныя партыз. атрады імя Шчорса, «Мсцівец», імя Калініна (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«За Советскую Родину».* Вызвалены 28.6.1944 воінамі 219-й танк. брыгады (палк. М. Р. Хлюпін) 1-га механіз. корпуса 1-га Бел. фронту ў ходзе *Бабруйскай аперацыі 1944.* У С. Д. брацкія магілы сав. воінаў і партызан, на іх пастаўлены помнікі; помнікі Вызвалення, воінам-вызваліцелям, партызанкам-падпольшчыцам С. Бабаковай і Г. Каралёвай.

*Л. В. Календа.*

**СТАЎБЦО́ЎСКАЕ ПАРТЫЗА́НСКАЕ ЗЛУЧЭ́ННЕ.** Дзейнічала на акупіраванай тэрыторыі Стаўбцоўскага, Гарадзішчанскага, Дзяржынскага, Карэліцкага, Мірскага і Навамышскага р-наў. Створана ў кастр. 1943. Камандзір — чл. Баранавіцкага падп. абкома КП(б)Б У. З. *Царук.* Яднала 6 партыз. брыгад: 1-ю Бел. кавалерыйскую, «25-гадоў БССР», імя Жукава, «Камсамолец», імя Суворава, Першамайскую (гл. адпаведныя артыкулы). Уваходзіла ў *Баранавіцкае партызанскае злучэнне.* На час злучэння з Чырв. Арміяй (6—11.7.1944) налічвала 3550 партызан. Царуку прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

**СТАЎБЦО́ЎСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ МІЖРАЙПАРТЦЭ́НТР.** Дзейнічаў з 2.10 да 19.12. 1943 пад кіраўніцтвам *Баранавіцкага падпольнага абкома КП(б)Б.* Узначальваў парт. падполле і партыз. рух на тэр. Гарадзішчанскага, Карэліцкага, Мірскага, Навамышскага і Стаўбцоўскага р-наў. Накіроўваў дзейнасць *Стаўбцоўскага падпольнага міжрайцэнтра ЛКСМБ.* Састаў міжрайпартцэнтра: У. З. *Царук* (кіраўнік), А. Л. Сцепчанка (нам. па аператыўна-чэкісцкай рабоце). Ліквідаваны рашэннем Баранавіцкага падп. абкома КП(б)Б. *А. М. Літвін.*

**СТАЎБЦО́ЎСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ МІЖРАЙЦЭ́НТР ЛКСМБ.** Створаны *Баранавіцкім падпольным абкомам ЛКСМБ.* Дзейнічаў з 2.10 да 19.12.1943 пад кіраўніцтвам *Стаўбцоўскага падпольнага міжрайпартцэнтра* і Баранавіцкага падп. абкома ЛКСМБ. Кіраваў камсам. работай у Баранавічах, Гарадзішчанскім, Карэліцкім, Мірскім, Навамышскім, Стаўбцоўскім р-нах. Кіраўнікі міжрайцэнтра: А. В. Мамантаў (адначасова сакратар Стаўбцоўскага падп. РК ЛКСМБ), Р. Л. Марахоўскі. Базіраваўся ў Налібоцкай пушчы. Пасля ліквідацыі міжрайцэнтра Мамантаў працаваў (да 18.5.1944, загінуў) упаўнаважаным Баранавіцкага падп. абкома ЛКСМБ па Стаўбцоўскай зоне.

*Р. М. Шавяла.*

**СТАФАНО́ЎСКІ** Пётр Міхайлавіч (2.1.1903, в. Чырковічы Светлагорскага р-на — 18.2.1976), ген.-маёр авіяцыі (1944), Герой Сав. Саюза (1948). Чл. КПСС з 1944. У Чырв. Арміі з 1925. Скончыў Ваенна-тэарэтычную школу ВПС (1927), 1-ю ваен. школу лётчыкаў імя Мяснікова (1928). На фронце з ліп. 1941, камандзір знішчальнага авіяпалка, нам. камандзіра авіякорпуса і нач. Зах. сектара ППА Масквы. Зрабіў 150 баявых вылетаў, збіў 3 варожыя самалёты. З 1942 лётчык-выпрабавальнік, нам. нач. аддзела, упраўлення НДІ ВПС. Пілатаваў 317 самалётаў розных тыпаў. Пасля вайны ў ВПС. Правёў 238 выпрабаванняў, зрабіў 16 першых вылетаў на новых самалётах. Першы ў свеце выканаў вышэйшы пілатаж на рэактыўным самалёце. Да 1954 у Сав. Арміі. Аўтар кн. «Трыста невядомых» (2 выд., 1973).

**СТА́ШАК** Мікалай Іванавіч (н. 18.4.1914, хутар Марынаўскі Бяляеўскага р-на Адэскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1943), ген.-лейт. (1968). Канд. ваен. навук (1961), дацэнт. Чл. КПСС з 1942. Скончыў вучылішча пагранічных войск НКУС (1938), ваен. акадэміі імя Фрунзе (1947) і Генштаба (1952). З крас. 1942 на Бранскім і Цэнтр. франтах. Вызначыўся ў баях за вызваленне Камарынскага р-на Палескай вобл. У вер. 1943 полк пад яго камандаваннем на падручных сродках першы ў дывізіі фарсіраваў Дняпро, захапіў і расшырыў плацдарм, на які пераправіліся інш. часці дывізіі, вызваліў в. Камарын. Да 1973 у Сав. Арміі. Жыве ў Маскве.

**СТО́ЛІН,** горад, цэнтр Столінскага р-на, на р. Гарынь. За 245 км на У ад Брэста, 7 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец — Сарны, аўтадарогамі звязаны з Пінскам і Давыд-Гарадком. 12.7.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія забілі ў С. і раёне 9309 чал., разбурылі горад. У горадзе і раёне дзейнічалі Столінскія падп. райкомы КП(б)Б (1.9.1943—16.2.1944) і ЛКСМБ (9.8.1943—1.3.1944), партыз. брыгады імя Молатава, «Савецкая Беларусь», асобны партыз. атрад Столінскі. (гл. адпаведныя артыкулы). Украінскія і бел. партызаны двойчы (16.1.1943 і 9.1.1944) нападалі на ням.-фаш. гарнізон у С. Вызвалены 7.7.1944 часткай сіл 397-й стралк. дывізіі (палк. М. Ф. Андоньеў) 89-га стралк. корпуса 61-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе наступлення на баранавіцка-брэсцкім напрамку ў час *Беларускай аперацыі 1944.* У С. брацкая магіла сав. воінаў, партызан і ахвяр фашызму, магіла ахвяр фашызму, на якіх пастаўлены помнікі, помнікі Вызвалення і землякам, мемарыяльныя дошкі сав. воінам і партызанам, якія загінулі ў барацьбе з ням.-фаш. акупантамі, парт. і сав. работнікам, удзельнікам парт. падполля — дырэктару школы М. А. Абадоўскаму і супрацоўніку рэдакцыі раённай газ. «Навіны Палесся» М. А. Крыжу. Працуе *Столінскі раённы краязнаўчы музей.*

**СТО́ЛІНСКІ РАЁННЫ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты 5.11.1955. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, мае 160 экспанатаў асн. фонду, пл. 19 м². Расказваецца пра пачатковы перыяд вайны (матэрыялы пра абарону Брэсцкай крэпасці, удзельніка абароны Брэста земляка У. М. Галыбіна), узнікненне і разгортванне падполля і партыз. руху ў раёне: лістоўкі Пінскага падп. абкома КП(б)Б «Да насельніцтва Пінскай вобласці», фатаграфіі і дакументы кіраўнікоў і ўдзельнікаў падп. антыфаш. груп М. А. Абадоўскага, А. І. Барэйкі, І. М. Барэйкі, В. Г. Дзяжуркі, М. А. Крыжа і інш., матэрыялы пра стварэнне і дзейнасць Столінскіх і Давыд-Гарадоцкіх падп. РК КП(б)Б і ЛКСМБ, фатаграфіі камандзіраў Пінскага партыз. злучэння Героя Сав. Саюза В. З. *Каржа* і Столінскага асобнага партыз. атрада В. Е. Ключанкова, дакументы, узнагароды, фатаграфіі партызан брыгад С. П. Каплуна і «Савецкая Беларусь», у т. л. камандзіра П. П. *Тамілава,* камісара І. А. *Сматрова,* нач. штаба К. А. Ганчарука, партыз. сувязных А. Г. Правальскай, Д. В. Правальскага, разведчыка А. М. Магамедава, медсястры Г. Кулікавай і інш. Экспануюцца матэрыялы пра ўдзел воінаў-землякоў у абароне Масквы, Ленінграда, Сталінграда і інш. Фатаграфіі ахвяр фашызму і шыбеніц, асабістыя рэчы расстраляных гітлераўцамі ваеннапалонных сведчаць пра злачынствы ням.-фаш. захопнікаў у раёне. Экспануюцца матэрыялы пра вызваленне Століна і раёна воінамі 397-й стралк. дывізіі 61-й арміі: зброя, асабістыя рэчы, дакументы, фатаграфіі воінаў-вызваліцеляў. *С. А. Луцкая.*

**СТО́МА** Адам Акімавіч (1906, в. Аўцюцевічы, Калінкавіцкі р-н — 11.12.1955), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Беластоцкай вобл. Чл. КПСС з 1930. У 1933—41 на сав. і парт. рабоце. У жн. 1943 на чале групы накіраваны ў Беластоцкую вобл. З вер. 1943 у Беластоцкім партыз. злучэнні. З 21.11.1943 да 13.7.1944 сакратар *Чыжаўскага падпольнага міжрайкома КП(б)Б.* З 1944 на парт. і сав. рабоце.

**СТО́ЎБЦЫ,** горад, цэнтр Стаўбцоўскага р-на на р. Нёман, за 78 км на ПдЗ ад Мінска. Чыг. станцыя на лініі Мінск — Баранавічы, на аўтадарозе Мінск — Баранавічы, звязаны з Нясвіжам, Івянцом і аўтамагістраллю Брэст — Мінск. З 1940 цэнтр раёна. 7,5 тыс. жыхароў у 1939. У канцы чэрв. 1941 на зах. ускраіне чыг. станцыі С. прыняў бой зенітна-арт. дывізіён пад камандаваннем капітана Сінягоўскага. Батарэя лейт. Трацэнкі разбіла ням. танк. калону 47-га механіз. корпуса 2-й танк. групы ген. Гудэрыяна, падпаліла 15 танкаў. Разам з чырвонаармейцамі за кожны квартал горада змагаліся жыхары, арганізаваныя на адпор акупантам старшынёй райвыканкома У. З. *Царуком.* Акупіраваны 28.6.1941 ням.-фаш. захопнікамі, якія за гады акупацыі знішчылі ў горадзе і раёне 4892 чал., у т. л. ў С. каля 3,5 тыс. чал. У С. і раёне вясной 1942 узнік шэраг падп. груп. На тэр. раёна дзейнічалі *Івянецкі падпольны міжрайпартцэнтр, Івянецкі падпольны міжрайцэнтр ЛКСМБ, Стаўбцоўскі падпольны міжрайцэнтр ЛКСМБ,* Стаўбцоўскія падп. райкомы КП(б)Б (15.10.1943—10.7.1944) і ЛКСМБ (20.10.1943—5.7.1944), партыз. брыгада імя Сталіна, асобны партыз. атрад імя Жданава (гл. адпаведныя артыкулы), у кастр. 1943 створана *Стаўбцоўскае партызанскае злучэнне*; выдавалася падп. газ. *«Голас селяніна».* Вызвалены 2.7.1944 воінамі 30-й кав. дывізіі (ген.-маёр В. С. Галаўской) 4-га гвардз. кав. корпуса коннамеханіз. групы, часткай сіл 217-й стралк. дывізіі (палк. М. П. Масонаў) 29-га стралк. корпуса, 713-га самаходнага арт. палка (падпалк. І. В. Васільеў) 48-й арміі, 7-й гвардз. авіядывізіі далёкага дзеяння (палк. Ф. С. Шырокі) 3-га гвардз. авіякорпуса далёкага дзеяння 1-га Бел.

П. М. Стафаноўскі. М. І. Сташак.



фронту пры ўзаемадзеянні з *партызанскай брыгадай 27-й імя В. І. Чапаева* ў ходзе *Мінскай аперацыі 1944*. У С. брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі; помнік Вызвалення. *У. М Якубоўскі.*

**«СТРАКА́ТЫ ДЗЯ́ЦЕЛ»** («Buntspecht»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў за 3 км на ПдЗ ад в. Радзіца Крупскага р-на 24—25.5.1944. Праводзілася падраздзяленнямі вермахта, знішчальнай камандай камендатуры і паліцыі пад кіраўніцтвам зондэркаманды 7 «Б» з Барысава. Да карнай аперацыі па «ачыстцы» лясных масіваў у раёне в. Радзіца былі прыцягнуты падраздзяленні люфтвафэ і супрацьпаветранай абароны, якія дыслацыраваліся ў Дакудаве і Дубесне, 825-ы батальён т. зв. «апалчэння» і інш. Гітлераўцы забіралі жывёлу, рабавалі цывільнае насельніцтва. Жыхароў в. Баравыя сілай зброі прымушалі рухацца наперадзе карнікаў і разміраваць сваімі целамі дарогі, больш за 60 жыхароў в. Радзіца вывезлі на катаргу ў Германію.



П. А. Странакоў. І. І. Строчка.



М. С. Струк. І. А. Стулаў.



М. П. Судзілоўскі. С. П. Супрун.

**СТРАНАКО́Ў** Пракоп Авяр'янавіч (6.6.1917, в. Грачухі Жлобінсага р-на — 12.10.1961), Герой Сав. Саюза (1943). Скончыў курсы мал. лейтэнантаў (1942), Вышэйшую афіцэрскую арт. школу (1951). З 1942 на Бранскім, Цэнтр.,Бел. і 1-м Бел. франтах. Камандзір арт. ўзвода лейтэнант С. вызначыўся пры вызваленні Лоеўскага р-на. 12.10.1943 на чале групы разведчыкаў пераправіўся цераз Дняпро, разведаў агнявыя кропкі ворага, якія потым знішчаны сав. артылерыяй. 21.10.1943 у баях за расшырэнне плацдарма замяніў параненага камандзіра роты, павёў байцоў у атаку, першы ўварваўся ў траншэі праціўніка. Паранены, не пакінуў поля бою і ўтрымліваў рубеж да падыходу падмацавання. Да 1958 у Сав. Арміі, маёр. Яго імем названа вуліца ў в. Рэкта Жлобінскага р-на.

**СТРО́ЧКА** Іван Іванавіч (н. 10.10.1919, в. Пажарышча Бешанковіцкага р-на), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1942. Скончыў Ваен. арт. камандную акадэмію (1956). На фронце з 1941. Удзельнік баёў на Паўн. Каўказе, на Украіне, у Польшчы. Камандзір узвода процітанк. гармат мал. лейтэнант С. вызначыўся ў жн. 1944 пры фарсіраванні Віслы каля Сандаміра. На чале ўзвода пераправіўся цераз раку і захапіў плацдарм, на якім узвод адбіў 5 атак, падбіў 6 танкаў. У час бою замяніў камандзіра батарэі і ўтрымліваў рубеж да падыходу падмацавання. Да 1970 у Сав. Арміі, палкоўнік, у 1971—87 на адм. рабоце.

**СТРУК** Міхаіл Сямёнавіч (11.2.1922, в. Запясочча Жыткавіцкага р-на — 12.7.1975), поўны кавалер ордэна Славы. З 1941 на Ленінградскім і 2-м Бел. франтах. Разведчык яфрэйтар С. у чэрв. 1944 каля г. Койвіста як старшы ў групе прыкрыцця забяспечыў захоп 4 палонных; 20.9.1944 у разведцы ўзяў у палон 18 гітлераўцаў; у студз. 1945 пры прарыве абароны праціўніка на левым беразе р. Нараў у час разведкі ўступіў у бой, знішчыў кулямёт з разлікам, 4 гітлераўцаў узяў у палон. Пасля вайны жыў і працаваў на радзіме.

**СТРЫЖА́К** Трафім Мікалаевіч (н. 20.4.1911, в. Заспа Рэчыцкага р-на), адзін з кіраўнікоў камсам.-маладзёжнага падполля і партыз. руху ў Беластоцкай вобл. ў Айч. вайну. Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Чл. КПСС з 1939. Скончыў ВПШ пры ЦК ВКП(б) (1946). З 1932 на камсам. і пед. рабоце. З 1939 у апараце ЦК ЛКСМБ, 1-ы сакратар Беластоцкага абкома ЛКСМБ. З вер. 1942 да сак. 1943 сакратар Мінскага абкома ЛКСМБ (дзейнічаў у прыфрантавой палосе). З чэрв. 1943 да 5.6.1944 1-ы сакратар *Беластоцкага падпольнага абкома ЛКСМБ*, адначасова з ліп. 1943 чл. *Беластоцкага падпольнага абкома КП(б)Б.* З 1944 на парт., сав. рабоце, з 1960 нам. старшыні, у 1970—80 старшыня праўлення Белкаапсаюза. Канд. у чл. ЦК КПБ у 1971—76. Дэп. ВС БССР у 1955—63 і ў 1971—75.

**СТРЭ́ШЫН,** гар. пасёлак у Жлобінскім р-не. На правым беразе Дняпра. За 25 км на Пд ад Жлобіна, аўтадарогай звязаны з аўтамагістраллю Жлобін — Светлагорск. Прыстань. У 1939—56 цэнтр раёна. У пач. вайны тут створаны атрад нар. апалчэння (камандзір Герасімаў) і знішчальны батальён (камандзір Ткачэнка), якія ўдзельнічалі ў *Рагачоўска-Жлобінскай аперацыі 1941*. У жн. 1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў раёне 1965 чал. Дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б (май — 21.11.1943) і ЛКСМБ (май — 29.11.1943), партыз. брыгады імя Панамарэнкі і імя Чапаева (гл. адпаведныя артыкулы); выдавалася падп. газ. *«Сталінскі шлях»*. Вызвалены 21.11.1943 войскамі Бел. фронту (ген. арміі К. К. *Ракасоўскі*) у час *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943.* У С. брацкая магіла сав. воінаў, на ёй пастаўлен помнік; помнік землякам.

**СТУ́КАЛЬНА,** вёска на тэр. Віцебскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1,5 км на ПнУ ад в. Уласава Суражскага пасялковага Савета. Перад вайной у ёй жыло 37 чал. 11.11.1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 30 жыхароў, вёску (13 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь*.

**СТУ́ЛАЎ** Іван Андрэевіч (18.9.1904, в. Шамбава Сокальскага р-на Валагодскай вобл.— 15.2.1964), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1926. Скончыў Іркуцкі фінансава-эканамічны ін-т (1931). З 1938 1-ы сакратар Віцебскага абкома КП(б)Б, на парт. рабоце ў Краснаярскім краі. З 8.3.1942 1-ы сакратар *Віцебскага падпольнага абкома КП(б)Б*, чл. Ваен. савета 4-й Ударнай арміі. З кастр. 1944 нам. сакратара ЦК КП(б)Б па прамысловасці, заг. прамысловага аддзела ЦК КП(б)Б. З 1945 на сав. і пед. рабоце ў Маскве. Чл. ЦК КП(б)Б у 1940—49. Дэп. ВС СССР у 1937—46.

**СТЭ́ЛЬМАХ** Адам Канстанцінавіч (17.10.1901, в. Лазовас Асіповіцкага р-на — 3.8.1983), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1925. Скончыў Вышэйшы камуніст. с.-г. ун-т імя Свярдлова (1934). З 1925 на гасп., з 1934 на парт. рабоце.

Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. З 1939 1-ы сакратар Багушэўскага РК КП(б)Б. У партызанах з ліп. 1941, у ліп.— кастр. 1941 і жн. 1942 — сак. 1943 сакратар Багушэўскага падп. РК КП(б)Б, адначасова ў снеж. 1942 — сак. 1943 камісар *партызанскай брыгады Багушэўскай.* З 1944 нам. старшыні Белкаапсаюза, 1-ы сакратар Барысаўскага, Пухавіцкага РК КПБ, у 1958—72 на гасп. рабоце. Чл. ЦК КПБ у 1952—60.

**СТЭ́СЬКАВА,** вёска на тэр. Віцебскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1—2 км на Пд ад в. Храпакі Запольскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 46 чал. У ліп. 1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 20 жыхароў, вёску (11 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**СУДЗІЛО́ЎСКІ** Мікалай Пятровіч (15.6. 1914, в. Пячары Касцюковіцкага р-на — студз. 1963), Герой Сав. Саюза (1945). Працаваў на шахце ў Данбасе, машыністам паравоза ў Ніжнім Тагіле. Скончыў палкавую школу (1942). З 1942 на Ленінградскім, 2-м Укр. франтах. Камандзір аддзялення ст. сяржант С. вызначыўся пры фарсіраванні Дуная на Пн ад г. Эрчы ў Венгрыі. У ноч на 5.12. 1944 з разлікам дэсантнай лодкі зрабіў некалькі рэйсаў на правы бераг ракі, перавёз больш за 80 байцоў, чым садзейнічаў захопу і ўтрыманню плацдарма. Пасля вайны жыў у Іркуцкай вобл., у г. Макееўка Данецкай вобл.

**СУДО́ВЫЯ ПРАЦЭ́СЫ АБ ЗЛАЧЫ́НСТВАХ НЯМЕ́ЦКА-ФАШЫ́СЦКІХ ЗАХО́ПНІКАЎ І ІХ ПАМАГА́ТЫХ.** Страшэнныя злачынствы на акупіраванай фаш. Германіяй тэр. СССР, учыненыя *ваеннымі злачынцамі,* патрабавалі суровага пакарання асоб, вінаватых у зверствах і забойствах мірных жыхароў і ваеннапалонных, масавым знішчэнні людзей і інш. цяжкіх злачынствах супраць чалавецтва. Непазбежнасць пакарання нацысцкіх катаў з'яўлялася адной з мэт справядлівай вайны народаў супраць фашызму, патрабаваннем усяго чалавецтва. Юрыдычнай асновай пакарання стаў Указ Прэзідыума ВС СССР ад 19.4.1943, які прадугледжваў крымінальную адказнасць ваен. злачынцаў і іх памагатых у выглядзе пакарання смерцю праз павешанне або катаржных работ на тэрмін ад 15 да 20 гадоў. Выяўленне даных аб зробленых ням.-фаш. захопнікамі злачынствах праводзіла *Надзвычайная Дзяржаўная Камісія.* У 1943 судовыя працэсы над катамі з СД, СС, гестапа і здраднікамі Радзімы адбыліся ў Краснадары, Краснадоне, Харкаве. У жн. 1945 быў створаны Міжнар. ваен. трыбунал і аддадзены пад суд гал. ваен. злачынцы (гл. *Нюрнбергскі працэс*). Судовы працэс па справе аб злачынствах, зробленых ням.-фаш. захопнікамі на тэр. БССР, адбыўся 15—29.1. 1946 у Мінску. Пад суд Ваен. трыбунала Мінскай ваен. акругі былі аддадзены 18 ваеннаслужачых і супрацоўнікаў карных органаў гітлераўскай Германіі, 14 з іх, у т. л. ген.-лейт. І. Рыхерт, ген.-маёр Э. Герф, ген.-маёр Г. Эрдмансдорф, падпалк. Г. Вайсіг, капітан Э. Фальк, маёр Р. Мол, капітан К. Лагнут і інш. прыгавораны да пакарання смерцю праз павешанне. 30.1.1946 на іпадроме Мінска прыгавор прыведзены ў выкананне. Судовыя працэсы над вінаватымі ў злачынствах на тэр. БССР адбыліся таксама ў Бранску (1945), Рызе (1946, 1961), Бабруйску, Віцебску, Гомелі (1947), Кобленцы (1963, ФРГ, над б. супрацоўнікамі мінскага СД) і інш. Судовыя працэсы над асобамі, якія ўчынялі зверствы ў адносінах да мірнага насельніцтва ў гады вайны, праводзяцца ва ўсіх выпадках устанаўлення факта злачынства. У адносінах да злачынстваў супраць чалавецтва тэрміны даўнасці крымінальнага праследавання не прымяняюцца. *І. І. Пацяружа.*

**СУКАЧО́Ў** Даніла Кірэевіч (27.3.1901, в. Семукачы Магілёўскага р-на — 15.5.1973), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў антыфаш. падполля і партыз. руху на тэр. Беластоцкай вобл. Чл. КПСС з 1926. Удзельнік грамадз. вайны. З 1940 старшыня Ядвабнаўскага райвыканкома Беластоцкай вобл. З вер. 1941 у Чырв. Арміі. У сак. 1943 накіраваны ў тыл ворага. З 27.7.1943 да 25.1.1944 чл. *Беластоцкага падпольнага абкома КП(б)Б.* Старшыня Беластоцкага абл. антыфаш. к-та (гл. *Беластоцкая абласная антыфашысцкая арганізацыя*). З 1944 на сав. рабоце.

**СУПРУ́Н** Сцяпан Паўлавіч (2.8.1907, с. Рэчкі Белапольскага р-на Сумскай вобл.— 4.7.1941), двойчы Герой Сав. Саюза (1940, 1941). Чл. КПСС з 1930. Скончыў ваен. школу пілотаў (1931). Лётчык-выпрабавальнік НДІ ВПС. Правёў выпрабаванні больш за 150 тыпаў самалётаў. У Чырв. Арміі з 1929. Удзельнік баёў з японскімі мілітарыстамі ў Кітаі (1939), сав.-фінл. вайны 1939—40. У час Айч. вайны на фронце з 1941. Камандзір знішчальнага авіяпалка асобага прызначэння падпалкоўнік С. на Зах. фронце збіў 2 і падбіў 1 самалёт праціўніка. 4.7.1941 загінуў у баі з 6 варожымі самалётамі каля в. Манастыры Талачынскага р-на. Яго імем названы вуліцы ў Барысаве, Віцебску, Маскве, Сумах, Талачыне; пастаўлены помнікі на радзіме, на месцы гібелі ў в. Коласава Талачынскага р-на.

**СУРАЖ,** гар. пасёлак у Віцебскім р-не, на р. Зах. Дзвіна пры ўпадзенні ў яе р. Каспля. За 43 км на ПнУ ад Віцебска, на аўтадарозе Віцебск — Веліж (Смаленская вобл.). У 1924—57 цэнтр Суражскага р-на. 3 тыс. жыхароў у 1939. У пачатковы перыяд вайны ў С. дзейнічаў эвакапункт. Па рашэнню Суражскага РК КП(б)Б ад 5.7.1941 створаны першы на Віцебшчыне партыз. атрад з рабочых і служачых картоннай фабрыкі імя Вароўскага (в. Пудаць) пад камандаваннем М. П. *Шмырова* (гл. *Партызанская брыгада 1-я Беларуская*), быў сфарміраваны Суражскі знішчальны батальён (камандзір Д. Ф. *Райцаў,* камісар І. Ф. Міконенка), на базе якога арганізавана партыз. група (пазней атрад Райцава; гл. *Партызанская брыгада імя Чырванасцяжнага Ленінскага камсамола*). 10 ліп. сіламі часцей 19-й арміі (ген.-лейт. І. С. *Конеў*) нанесены контрудар па 7-й і 20-й ням. танк. дывізіях 3-й танк. групы ген. Гота, якія наступалі ў напрамку Віцебск — Сураж, Віцебск — Рудня, у выніку чаго праціўнік часова затрыманы. У раён С. 10 ліп. з Віцебска адышлі апалчэнцы — батальёны палка міліцыі (камандзір А. Л. Радзюк), якія ўстанавілі ўзаемадзеянне з вайсковымі часцямі Чырв. Арміі. 12 ліп. яны занялі абарону на беразе р. Каспля і, прыкрываючы адыход сав. часцей на новыя рубяжы абароны, 4 гадз адбівалі атакі намнога большых сіл ням.-фаш. захопнікаў, узарвалі мост на р. Каспля разам з танкам і мотапяхотай праціўніка. 12.7. 1941 С. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў гар. пасёлку і раёне 9181 чал. У С. і раёне дзейнічалі Суражскія падп. РК КП(б)Б (12.5.1942—26.10.1943) і ЛКСМБ (12. 7.1941—26.10.1943), партыз. брыгады 1-я Бел., 2-я Бел. імя Панамарэнкі, 1-я Віцебская, імя А. Ф. Данукалава, імя Кутузава, імя Чырванасцяжнага Ленінскага камсамола, імя Леніна, асобныя атрады Іванава — Я. Р. Нароенкі, А. С. Пятрова (гл. адпаведныя артыкулы); выдавалася падп. газ. *«Партызан».* 12.9.1941 партызаны атрада Шмырова разграмілі ў С. ням.-фаш. гарнізон і на працягу 3 гадз утрымлівалі пасёлак, захапілі трафеі, узарвалі пераправу цераз Зах. Дзвіну і без страт вярнуліся на сваю базу. У лютым 1942 у выніку наступальнай Таропецка-Холмскай аперацыі войск Калінінскага фронту на ПнУ ад С. ўтварыліся т. зв. Віцебскія (Суражскія) «вароты» — 40-кіламетровы пралом у лініі ням. фронту, праз якія з вер. да снеж. 1942 ажыццяўлялася забеспячэнне партызан і сувязь з сав. войскамі Калінінскага фронту і сав. тылам (гл. *Віцебскія «вароты»*). У пач. лютага партызаны пры ўзаемадзеянні з часцямі Чырв. Арміі вызвалілі ад акупантаў прыфрантавыя Суражскі, часткова Мехаўскі і Віцебскі р-ны, што паслужыла пачаткам утварэння *Суражскай партызанскай зоны.* У пач. лютага 1943 у ходзе наступлення 4-й ударнай арміі з мэтаю ад-

рэзаць веліжскую групоўку праціўніка ад падыходзячых рэзерваў у раёне С. вялі баі часці 249-й стралк. дывізіі (ген.-маёр Г. Ф. Тарасаў), але авалодаць С. не ўдалося. Войскі 4-й ударнай арміі выйшлі на рубеж Веліж — Сураж — Дзямідаў, прыкаваўшы да сябе буйныя стратэгічныя рэзервы праціўніка. Вызвалены 28.10. 1943 воінамі 1189-га стралк. палка (палк. П. А. Курэня) 358-й стралк. дывізіі 4-й ударнай арміі 1-га Прыбалт. фронту і партызанамі 1-й Віцебскай брыгады (камандзір М. Ф. *Бірулін*) у ходзе наступлення сав. войск на віцебскім напрамку. У С. помнік чатыром дзецям Шмырова, якіх як заложнікаў расстралялі ням.-фаш. акупанты ў 1941, памятны дуб, пасаджаны ў гонар 1-й Бел. партыз. брыгады, мемар. дошка ў памяць аб разгроме ў С. партызанамі ням.-фаш. гарнізона. *Т. І. Паваліхіна.*

**СУ́РАЖСКАЯ ПАРТЫЗА́НСКАЯ ЗО́НА**, тэрыторыя на ПнУ Віцебскай вобл., якую кантралявалі партызаны. Складвалася на працягу студз.—сак. 1942 у ходзе наступальных дзеянняў партыз. атрадаў пад кіраўніцтвам М. П. *Шмырова*, Д. Ф. *Райцава*, А. П. Дзіка, М. Ф. *Біруліна* (пазней усе ў складзе *партызанскай брыгады 1-й Беларускай*), М. І. Дзьячкова (пазней у складзе *партызанскай брыгады 2-й Беларускай імя П. К. Панамарэнкі*). Партызаны разграмілі ў дзесятках вёсак мясцовыя акупацыйныя органы, вызвалілі ўсх. частку Мехаўскага і Гарадоцкага р-наў, паўн.-ўсх. частку Віцебскага і паўн. Суражскага р-наў. Дапамогу партызанам у вызваленні ўсх. часткі зоны аказалі 21-я стралк. брыгада і 62-і асобны лыжны батальён 4-й ударнай арміі Калінінскага фронту, да перадавых пазіцый якой да 28.9.1943 прымыкаў 40-кіламетровы ўчастак С. п. з. Да лета 1942 межы зоны значна пашырыліся, ахапілі вял. тэрыторыю ў чатырохвугольніку Сураж — Віцебск — Гарадок — Усвяты. У яе ўваходзілі Суражскі р-н (за выключэннем райцэнтра), частка Мехаўскага, Гарадоцкага, Віцебскага і Лёзненскага р-наў агульнай плошчай 3 тыс. км². У канцы вер. 1942 гітлераўцы, падцягнуўшы свежыя сілы, ліквідавалі *Віцебскія «вароты»*. Нягледзячы на гэта, С. п. з. працягвала існаваць да снеж. 1943, хоць яе тэр. некалькі звузілася.

Зону абаранялі партыз. брыгады 1-я Бел., імя А. Ф. Данукалава, 2-я Бел. імя Панамарэнкі, імя Кутузава Віцебскай вобл., імя Чырванасцяжнага Ленінскага камсамола, 1-я Віцебская (гл. адпаведныя артыкулы) і некаторыя інш. партыз. фарміраванні. Агульнае кіраўніцтва ўсёй баявой і гасп. дзейнасцю ў зоне ажыццяўлялі Суражскі падп. РК КП(б)Б і спец. штаб на чале з сакратаром райкома І. Ф. Бардзіянам, а таксама Гарадоцкі, Віцебскі, Мехаўскі, Лёзненскі падп. райкомы КП(б)Б, аднаўленыя мясцовыя органы сав. улады (Суражскі і Мехаўскі райвыканкомы, шматлікія сельсаветы) пад агульным кіраўніцтвам *Віцебскага падпольнага абкома КП(б)Б, Паўночна-Заходняй аператыўнай групы ЦК КП(б)Б*, камандавання Калінінскага (да 20.10.1943) і 1-га Прыбалт. франтоў. Падпольныя парт. арг-цыі праводзілі вял. работу па павышэнню баяздольнасці абаронцаў зоны; выдаваліся падп. раённыя газеты. Шматлікі атрад агітатараў і прапагандыстаў на сходах, мітынгах, у індывідуальных гутарках растлумачваў партызанам і насельніцтву тую велізарную ролю, якую выконвала зона ў развіцці партыз. руху. Партызаны і насельніцтва разам будавалі і ўмацоўвалі абарончыя палосы, праводзілі праз Віцебскія «вароты» з-за лініі фронту партыз. групы і атрады, у сав. тыл — бежанцаў, абозы з харчаваннем.

Зона знаходзілася пад пастаянным баявым уздзеяннем 59-га ням. армейскага корпуса (13 батальёнаў). Апрача яго карныя аперацыі супраць партызан і мясцовага насельніцтва зоны вялі камендатура Смаленска (5 батальёнаў), 201-я ахоўная дывізія, 205-я пях. дывізія, 19-ы паліцэйскі полк СС і інш. Перыядычна да карных аперацый супраць зоны прыцягваліся часці 3-й танк. арміі. З чэрв. 1942 да чэрв. 1943 гітлераўцы правялі супраць партызан зоны 11 карных аперацый («Белы мядзведзь», *«Грамавы ўдар»*, *«Шаравая маланка»*, *«Майская навальніца»*, «Дождж на Сёмуху», «Вясенні карагод» і інш.). Паўднёвыя межы зоны ўздоўж правага берага Зах. Дзвіны (у межах Суражскага і часткова Віцебскага р-наў) і да Пн і ПнУ ад вусця р. Лужасянка па сістэме азёр Вымна, Васлепна, Мядзесна, Цёста ўтрымлівала 1-я Бел. партыз. брыгада. Яна першай сустрэла ў пачатку чэрв. 1942 наступленне 59-га ням. армейскага корпуса і дала магчымасць мясцовым парт. і сав. органам ажыццявіць эвакуацыю больш за тысячу сямей за лінію фронту. Карнікі ў зоне баявых дзеянняў спалілі каля 2 тыс. сялянскіх дамоў, знішчылі школы, бальніцы, клубы, расстралялі больш за 20 захопленых імі жыхароў, ператварыўшы раён карнай аперацыі ў зону «выпаленай зямлі». У канцы студз. 1943 ням.-фаш. войскам удалося акружыць на Пд ад р. Аўсянка каля 9 тыс. партызан з брыгад «Аляксея», 1-й і 2-й Беларускіх, 3-й Смаленскай, Багушэўскай, асобай дыверсійнай імя У. І. Леніна (гл. *Партызанская брыгада дыверсійная Беларуская імя У. І. Леніна*), 1-й Віцебскай, імя Кутузава, імя Чырванасцяжнага Ленінскага камсамола, да 650 байцоў розных спецгруп і армейскіх разведчыкаў (гл. ў арт. *«Шаравая маланка»*). У выніку жорсткіх баёў партызаны вымушаны былі на час пакінуць зону і выйсці ў суседнія раёны Віцебскай вобл., а часткай сіл — за лінію фронту. Баі з карнікамі ў зоне працягваліся яшчэ некалькі месяцаў. У снежні 1943 значная частка зоны вызвалена войскамі 1-га Прыбалт. фронту ў выніку *Гарадоцкай аперацыі 1943*, калі большасць партыз. фарміраванняў, якія засталіся ў зоне, злучыліся з Чырв. Арміяй.

Утрыманне С. п. з. ў 1942 мела стратэгічнае значэнне для развіцця партыз. руху на Беларусі і ў суседніх з ёй Калінінскай вобл., Латвіі, Літве. Больш паўгода партызаны зоны ўтрымлівалі вельмі важную для ўсіх партызан Беларусі «дарогу жыцця» — Віцебскія «вароты», выратавалі жыццё дзесяткаў тысяч жанчын, дзяцей, старых. Сваёй актыўнай баявой дзейнасцю яны дэзарганізоўвалі тыл ворага на стыку груп ням. армій «Поўнач» і «Цэнтр», актыўна ўзаемадзейнічалі з Чырв. Арміяй. *У. С. Пасэ.*

**СУ́РАЖСКІЯ «ВАРО́ТЫ»**, гл. *Віцебскія «вароты»*.

**СУРГА́НАЎ** Фёдар Анісімавіч (7.6. 1911, в. Суднікі Віцебскага р-на — 26.12.1976), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсам. падполля і партыз. руху на тэр. Вілейскай, Баранавіцкай і Беластоцкай абл., сав. дзярж. і парт. дзеяч. Чл. КПСС з 1940. Скончыў Бел. с.-г. ін-т (1939). У 1942—45 сакратар ЦК ЛКСМБ. У 1942—43 на Калінінскім фронце ў складзе аператыўнай групы ЦК КП(б)Б і БШПР. У жн. 1943 — ліп. 1944 у тыле ворага, упаўнаважаны ЦК КП(б)Б і ЦШПР. З 1945 на парт. і сав. рабоце. З 1956 сакратар, з 1959 2-і сакратар ЦК КПБ, у 1962—65 старшыня Бюро ЦК КПБ па кіраўніцтву сельскай гаспадаркай. З 1965 2-і сакратар ЦК КПБ, у 1971—76 старшыня Прэзідыума ВС БССР, нам. Старшыні Прэзідыума ВС СССР. Канд. у чл. ЦК КПСС у 1956—61, чл. ЦК КПСС з 1961. Канд. у чл. ЦК КПБ у 1949—56, чл. ЦК КПБ і Бюро ЦК КПБ з 1956. Дэп. ВС СССР з 1954, нам. Старшыні Савета Нацыянальнасцей ВС СССР у 1962—66. Дэп. ВС БССР з 1951, нам. старшыні Прэзідыума ВС БССР у 1955—71. Яго імем названы вуліцы ў Горках, Мінску, Магілёве, Чэрыкаве, Лужаснянскі с.-г. тэхнікум (Віцебскі р-н). На доме, дзе ён жыў у Мінску, і на будынку БСГА у Горках, дзе ён вучыўся, устаноўлены мемар. дошкі.

**СУ́РЫН** Марцін Акімавіч (17.5.1908, в. Руднае Чашніцкага р-на — 24.4.1963), Герой Сав. Саюза (1945). На фронце з ліп. 1944. Удзельнік баёў у Літве і Усх. Прусіі. Вызначыўся пры вызваленні Літвы. 16.8.1944 працітанк. гранатамі падбіў 2 танкі праціўніка. 17.8.1944 прыняў на сябе камандаванне ўзводам, пераправіўся цераз р. Шашупе, знішчыў варожы кулямёт, гэтым садзейнічаў пераправе ўзвода. Яго імем названа школа ў в. Латыголічы Чашніцкага р-на; у в. Імянін Кобрынскага р-на на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемар. дошка.

**СУСЬКО́** Якаў Ягоравіч (н. 18.3.1917, в. Чарняўка Хоцімскага р-на), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1940. Скончыў Чкалаўскае ваен. авіяц. вучылішча (1941), Варонежскі пед. ін-т (1949), Вышэйшую дыпламатычную школу (1952). З 1943 на Зах., Бранскім, 1-м і 4-м Укр. франтах. Удзельнік вызвалення Украіны, Венгрыі, Польшчы, Чэхаславакіі. Камандзір эскадрыллі штурмавога авіяпалка, якая з ліст. 1943 да мая 1945 зрабіла 1418 баявых вылетаў. Асабіста капітан С. зрабіў 141 баявы вылет, знішчыў каля 30 варожых танкаў, 120 аўтамашын, 25 гармат, 27 мінамётных батарэй, 2 самаходныя гарматы, 45 вагонаў, 2 паравозы, 9 бронетранспарцёраў, 11 самалётаў на аэрадромах, 3 масты, 7 складоў з боепрыпасамі, разбурыў 2 чыг. станцыі. Да 1946 у Сав. Арміі, маёр. Да 1978 на дыпламатычнай рабоце.

**СУФ'Я́НІКІ**, вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 5,5 км на ПнУ ад в. Align Вознава Сар'янскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 57 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»*, фашысты загубілі 54 жыхароў, вёску (8 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1982 на месцы спаленай вёскі насыпаны курган, пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь*.

**СУХАВА́РАЎ** Дзмітрый Гаўрылавіч (12.6.1904, в. Жакаўка Горацкага р-на — 4.3.1983), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1930. У Чырв. Арміі з 1926. З 1941 на Паўн.-Зах., Зах., Сталінградскім, Варонежскім, Сцяпным, 1-м Укр., Далёкаўсх. франтах. Камандзір танк. палка падпалкоўнік С. вызначыўся ў баях за вызваленне Кіева. 5.11.1943 полк пад яго камандаваннем прарваў варожую абарону і перарэзаў 5 дарог на Кіеў; у гэтых баях знішчыў 23 гарматы, 24 кулямёты, 15 танкаў, 4 аўтамашыны з боепрыпасамі, каля батальёна салдат і афіцэраў праціўніка. Удзельнік вайны з імперыялістычнай Японіяй у 1945. Да 1957 у Сав. Арміі, палкоўнік. Да 1965 на адм. рабоце.

**СУХАМЛІ́Н** Іван Міхайлавіч (н. 24.6. 1923, в. Васіленкава Чугуеўскага р-на Харкаўскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1944), генерал-маёр (1978). Канд. ваен. навук (1964), дацэнт (1970). Чл. КПСС з 1944. Скончыў ваен. акадэмію бранятанк. і механіз. войск (1951), імя Фрунзе (1955). З 1941 на Бранскім, Цэнтр. і 1-м Бел. франтах. Вызначыўся ў Бел. аперацыі. 8.7.1944 танк. рота пад камандаваннем лейтэнанта С. вызваліла ст. Міцкевічы, перарэзала чыгунку Баранавічы — Ліда; акружаная праціўнікам, на працягу 8 гадз вяла з ім няроўны бой, знішчыла 10 гармат, з іх 3 самаходныя, танк, 26 аўтамашын і каля 100 гітлераўцаў. 9.7.1944 з 2 танкамі фарсіраваў р. Шчара, увварваўся ў г. Слонім, дзе знішчыў 2 самаходныя гарматы, мінамётную батарэю, каля 30 гітлераўцаў. Паранены і абпалены, працягваў весці бой, тараніў самаходную гармату ворага. Ганаровы грамадзянін г. Слонім.

**СУ́ХАЎ** Фёдар Фаміч (н. 5.9.1920, пас. М. Чуракоўка Кустанайскага павета Тургайскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1945. Скончыў БДУ (1957). З 1940 у Чырв. Арміі. З чэрв. 1941 на фронце. У партызанах з вер. 1941: камандзір групы, з крас. 1943 — атрада, у кастр. 1943 — лютым 1944 *партызанскага палка 425-га*. У 1952—59 працаваў у БДУ.

**СУХА́Я МІ́ЛЯ**, вёска на тэр. Салігорскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1 км на ПдЗ ад в. Загор'е Новацярушскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 75 чал. 14.9.1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 22 жыхароў, вёску (24 двары) спалілі, маёмасць разрабавалі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1968 на месцы спаленай вёскі насыпаны курган, пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь*.

**СЦЕФАНО́ВА**, вёска на тэр. Бялыніцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на З ад в. Прыхабы Лебядзянкаўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 96 чал. 22.12.1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 96 жыхароў, вёску (25 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1971 на магіле ахвяр фашызму пастаўлены помнік — скульптура жанчыны з дзіцём, побач пліта з памятным надпісам. Вёска ўвекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**СЦЕФАНЮ́К** Леанід Пятровіч (14.6. 1907, с. Падлесны Алексінец Гарадоцкага р-на Хмяльніцкай вобл. — 3.2.1975), адзін з кіраўнікоў партыз. руху на тэр. Мінскай і Беластоцкай абл. Чл. КПСС з 1939. З 1929 у Чырв. Арміі. Скончыў Сумскае арт. вучылішча. У партызанах з сак. 1942: камандзір групы, атрада, у снежні 1942 — чэрв. 1943 *партызанскай брыгады 225-й імя А. В. Суворава*, потым нам. камандзіра *Беластоцкага партызанскага злучэння*. З 1944 у Гродзенскім пед. ін-це, на адм.-гасп. рабоце ў Гродне.

**«СЦЯГ ЛЕ́НІНА»**, газета, заснавана ў 1931. У час ням.-фаш. акупацыі орган Бярэзінскага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 19 нумароў за 27.3.1943—22.6. 1944 на бел. мове. Рэдактары: І. А. Ляскавец (да 18.4.1943), А. В. Яблонскі (да мая 1943), М. С. Бурдыка. Пасля вызвалення выдаецца пад той жа назвай, орган Бярэзінскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**СЦЯГ ПЕРАМО́ГІ**, чырвоны сцяг, устаноўлены 30.4.1945 над пераможаным Берлінам; сімвал Перамогі сав. народа і яго Узброеных Сіл над фаш. Германіяй. Узяцце сталіцы германскага рэйха ажыццявілі 1-ы Бел. і частка сіл 1-га Укр. франтоў, у т. л. часці і злучэнні, якія насілі ганаровыя найменні вызваленых імі гарадоў Беларусі: «Мінскія», «Гомельскія», «Бабруйскія», «Брэсцкія», «Баранавіцкія», «Рагачоўскія», «Мазырскія» і інш. Надзвычай жорсткія баі разгарэліся 29.4.1945 у цэнтры Берліна за будынак рэйхстага. Часцям, якія штурмавалі яго, былі ўручаны ўстаноўленыя ваен. саветам 3-й ударнай арміі сцягі для ўзняцця над рэйхстагам. Пад канец дня 30.4. 1945 разведчыкі 756-га палка 150-й стралк. дывізіі — сын рус. народа, былы бел. партызан, сяржант М. А. *Ягораў* і грузін, мал. сяржант М. В. Кантарыя ўзнялі сцяг над гал. купалам рэйхстага. У С. П. зліліся разам усе сцягі і флагі, устаноўленыя сав. воінамі на рэйхстагу. 20.6.1945 С. П. з асобымі воінскімі ўшанаваннямі дастаўлены з Берліна ў Маскву. 24 чэрв. на *Парадзе Перамогі* ўрачыста правезены па Краснай пл. наперадзе зводных палкоў франтоў. Захоўваецца ў Цэнтр. музеі Узброеных Сіл СССР. У Мінску, у *Музеі гісторыі войск Беларускай ваеннай акругі*, экспануецца штурмавы флаг 50-й стралк. дывізіі, які таксама быў устаноўлены на рэйхстагу. *А. С. Харэбін.*

М. А. Сурын. Я. Я. Сусько.



**«СЦЯГ САЦЫЯЛІ́ЗМА»**, газета, заснавана ў 1930 пад наз. «За калектывізацыю». У перыяд ням.-фаш. акупацыі орган Чашніцкага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 34 нумары за 3.4. 1943—1.2.1944 на бел. і рус. мовах. Пасля вызвалення выдавалася пад той жа назвай, з 1965 «Чырвоны прамень», орган Чашніцкага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«СЦЯГ СВАБО́ДЫ»**, газета, орган Мірскага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 21 нумар за 15.2—6.6.1944 на бел. мове (асобныя нумары і часткова тэкст інш. нумароў на рус. мове). Выпускала антыфаш. сатырычны лісток *«Партызанскае жыгала»*. Рэдактары: І. К. Кузняцоў, І. А. Брыль. Пасля вызвалення выдавалася пад той жа назвай, з 1965 «Полымя», орган Карэліцкага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**СЦЯПА́НАЎ** Мікалай Сцяпанавіч (чэрв. 1893, г. Чэрыкаў — 11.6.1955), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1920. З 1919 на сав. і гасп. рабоце. З чэрв. 1941 у Чырв. Арміі. У партызанах з чэрв. 1942: камандзір, камісар атрада, у вер. 1943— ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады 300-й імя К. Я. Варашылава,* адначасова ў крас. 1943— ліп. 1944 сакратар Уздзенскага падп. РК КП(б)Б. З 1944 сакратар Уздзенскага РК, з 1951 сакратар парткамісіі пры Мінскім абкоме КПБ.

**СЦЯПУ́К** Сямён Яфімавіч (26.1.1911, в. Гарадзішча Петрыкаўскага р-на— 11.3.1988), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1942. З 1941 на Паўд.-Зах., Варонежскім, 1-м і 4-м Укр. франтах. Удзельнік Сталінградскай бітвы, вызвалення Украіны, Малдавіі, Польшчы, Чэхаславакіі. Камандзір роты аўтаматчыкаў ст. лейтэнант С. вызначыўся ў вер. 1943 пры фарсіраванні Дняпра на Пн ад Кіева. Рота на чале з С. пераправілася цераз раку, выбіла ворага з траншэй і на захопленым плацдарме за суткі адбіла больш за 10 контратак, гэта садзейнічала пераправе інш. падраздзяленняў палка. Да 1960 у органах МУС БССР.

**СЫДЗЬКО** Міхаіл Пятровіч (18.9.1906, в. Сініцкае Поле Лельчыцкага р-на — 30.4.1983), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1938. У Чырв. Арміі з 1928. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. У Айч. вайну на фронце з 1941, палітрук роты, сакратар партбюро, камісар, камандзір палка. Удзельнік баёў пад Масквой, Сталінградам, у Крыме, Прыбалтыцы, Германіі. Полк пад камандаваннем падпалк. С. вызначыўся пры вызваленні Крыма. 1.11.1943 з баямі фарсіраваў Сіваш, 5.4.1944—Айгульскае возера, зайшоў праціўніку ў тыл, чым садзейнічаў прарыву яго абароны; 7.4.1944 перарэзаў чыгунку Воінка — Джанкой. 8.5.1944 уварваўся ў Севастопаль, у вулічных баях знішчыў 10 гармат, 19 кулямётаў, больш за 550 гітлераўцаў, захапіў 12 эшалонаў з грузам, 25 аўтамашын, 6 мінамётаў, 90 кулямётаў, узяў у палон больш за 200 гітлераўцаў. Да 1954 у Сав. Арміі, палкоўнік. Ганаровы грамадзянін г. п. Лельчыцы. Яго імем названы вуліцы ў Рэчыцы і Лельчыцах.

**СЫРАМА́ХА** Павел Якаўлевіч (н. 10.5. 1915, в. Дварэц Жыткавіцкага р-на), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Вілейскай вобл. Чл. КПСС з 1942. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КПБ (1953). З 1935 на сав. рабоце. З чэрв. 1941 у Чырв. Арміі. У партызанах з жніўня 1942: з вер. 1942 камісар атрада, батальёна, у ліп.— вер. 1943 камісар, у вер. 1943— ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады імя Г. К. Жукава,* адначасова з снеж. 1943 сакратар Браслаўскага падп. РК КП(б)Б. З 1944 на камсамольскай, парт., сав. і гасп. рабоце.

**СЫЧЭ́НКА** Пётр Фёдаравіч (6.6.1911, в. Новае Заазер'е Талачынскага р-на — 25.6.1969), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1940. Скончыў Ваен.-авіяц. школу тэхнікаў (1932), ваен. школу лётчыкаў (1939). З 1941 на Цэнтр., Паўд., Бранскім, Варонежскім, Паўн.-Зах., Сталінградскім, 1-м Укр. франтах. Удзельнік бітваў пад Масквой, Сталінградам, Курскам. Камандзір штурмавой эскадрыллі капітан С. да 1943 зрабіў 42 баявыя вылеты, знішчыў 6 танкаў, 3 зенітныя батарэі, 25 матацыклаў, больш за 700 гітлераўцаў. Да 1956 у Сав. Арміі, палкоўнік.

Дз. Г. Сухавараў. С. Я. Сцяпук. М. П. Сыдзько. Ц. Я. Сычкоў. П. Ф. Сычэнка. А. Ф. Сямёнаў.



**СЫ́РЦАЎ** Павел Васілевіч (н. 26.12. 1914, с. Мяседа Катаў-Іванаўскага р-на Чэлябінскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1939. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У пач. Айч. вайны на Зах. фронце. У партызанах з сак. 1942: камандзір групы, узвода, нач. асобага аддзела, у кастр. 1942— чэрв. 1943 камісар, у ліп. 1943— чэрв. 1944 нам. камандзіра *партызанскай брыгады Сенненскай.* З 1944 у Сав. Арміі, з 1946 на парт. і адм.-гасп. рабоце.

**СЫЧКО́Ў** Цярэнцій Яфрэмавіч (н. 6.1. 1922, в. Хутар Быхаўскага р-на), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1944. Скончыў Барысаўскае ваен.-інж. вучылішча (1941), Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1952). З 1942 на Паўн.-Каўказскім, Варонежскім, 1-м і 2-м Укр., 1-м і 2-м Бел. франтах. Камандзір інж. роты ст. лейтэнант С. вызначыўся пры вызваленні Украіны. 25.9.1943 рота С. пад агнём праціўніка на дэсантных лодках пераправіла цераз Дняпро 802 байцоў, за ўвесь час пераправы — больш за 8800 салдат і афіцэраў, 398 т боепрыпасаў, 6 тыс. мін, 82 гарматы, 216 т харчовых прадуктаў, вывезла 430 параненых. Да 1972 у Сав. Арміі, палкоўнік.

**СЯДЛЕ́ЦКІ** Фёдар Міхайлавіч (21.2. 1906, в. Стараселле Шклоўскага р-на — 10.12.1943), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1929. У пач. вайны на фронце. У партызанах з крас. 1942, у маі — кастр. 1942 і сак.— жн. 1943 камісар *партызанскай брыгады «Чэкіст»,* з вер. камандзір атрада. Загінуў у баі.

**СЯЛЕ́Ц,** вёска на тэр. Клічаўскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на З ад в. Усакіна Патоцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жылі 64 чал. У ліп. 1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 60 жыхароў, вёску (11 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1985 на месцы вёскі ўстаноўлены мемар. знак. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**СЯЛІ́ЦКІ** Людвіг Іванавіч (25.12.1903, в. Вял. Трылесін Бялыніцкага р-на — 5.3.1977), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1926. З 1938 на гасп., сав. і парт. рабоце ў Віцебскай і Беластоцкай абл. З ліп. 1941 у варожым тыле, з лют. 1942 камандзір партыз. групы, камісар атрада, у ліп. 1942— крас. 1943 камісар, у ліст. 1942— крас. 1944 камандзір *партызанскай брыгады 1-й імя К. С. Заслонава,* адначасова ў чэрв. 1943— маі 1944 1-ы сакратар Аршанскага падп. РК КП(б)Б. З мая 1944 у распараджэнні ЦК ВКП(б). У 1948—71 райваенком у Узбекскай ССР, інжынер упраўлення аўтадарогі Масква —

Брэст. Яго імем названа вуліца ў Оршы.

**«СЯЛЯ́НСКАЯ ГАЗЕ́ТА»,** газета, заснавана ў 1939 пад назв. «Вілейская праўда». У час ням.-фаш. акупацыі орган *Вілейскага падпольнага абкома КП(б)Б.* Вядомы 60 нумароў за 22.1. 1942— чэрв. 1944 на бел. мове (асобныя нумары на бел. і рус. мовах). Выпускала таксама *«Бюллетень «Сялянскай газеты».* Рэдактары: А. Ц. Васілеўскі (да 29.8.1943), М. П. Петухоў (з 17.10.1943). Пасля вызвалення выдавалася пад той жа назвай, з 1951 «Сталінскі шлях», з 1956 «Калгаснае жыццё», у 1957—60 «Чырвоны сцяг», орган Маладзечанскіх абкома і гаркома КПБ, абл. і гар. Саветаў дэп. працоўных.

**СЯМЕ́НАВА,** вёска на тэр. Гарадоцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1 км на З ад в. Антоненкі Халамерскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 59 чал. У ліст. 1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 15 жыхароў, вёску (19 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**СЯМЕ́НАЎ** Аляксей Фадзеевіч (6.4. 1921, Бабруйск — 1951), поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПСС. З 1944 на фронце, сяржант, камандзір аддзялення сапёрнага батальёна. Вызначыўся на Карэльскім фронце. 5.7. 1944 на тэр. Карэліі ў складзе перадавога атрада загароды зрабіў праход у мінным полі, абясшкодзіў 430 мін, чым забяспечыў наступленне танкаў; 4.8.1944 знішчыў варожага афіцэра. 25.9.1944 за 6 дзён абясшкодзіў і знішчыў 650 мін. 6.10.1944 у час размініравання міннага поля быў паранены, але пастаўленую задачу выканаў. Пасля вайны жыў у Бабруйску.

**СЯМЕ́НАЎ** Васіль Васілевіч (31.12. 1905, Ленінград — 6.5.1975), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1927. З 1933 на сав. і адм.-гасп. рабоце. З жн. 1941 на Зах. фронце. З мая 1942 у тыле ворага ў Смаленскай вобл. З жн. 1942 на Беларусі, з кастр. чл. аператыўнаштабной групы міжраённага парт. к-та Барысаўскай зоны, у снеж. 1942 — кастр. 1943 камісар, у кастр. 1943— лют. 1944 камандзір *партызанскай брыгады «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага.* У 1944—68 на адм.-гасп. рабоце.

**СЯМЕ́НАЎ** Георгій Мінавіч (падп. псеўд. Ж о р ж, Ж у к; 1908, Мінск — 7.5.1942), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў *Мінскага партыйнага падполля.* Працаваў у Слуцкім гарсавеце. У пач. вайны ўдзельнічаў у баях з ням.-фаш. захопнікамі. Калі папаў у акружэнне, вярнуўся ў Мінск. У жн. 1941 удзельнічаў у стварэнні падп. парт. групы б. работнікаў рэсп. канторы Белнафтазбыту. У ліст.— снеж. 1941 на нарадзе прадстаўнікоў падп. парт. арг-цый горада, якая адбывалася ў яго кватэры, створаны *Мінскі падпольны гарком КП(б)Б.* Член і заг. васн. аддзела к-та. Стварыў падпольную камсам. арг-цыю вуліц Розы Люксембург і Карла Лібкнехта (гл. ў арт. *Мінскае камсамольска-маладзёжнае падполле*). У сак. 1942 арыштаваны гітлераўцамі і пасля катаванняў павешаны. У Мінску яго імем названа вуліца; на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемар. дошка.

**СЯМІДЗЕСЯ́ТАЯ А́РМІЯ.** Сфарміравана ў кастр. 1942 — лют. 1943 з асабовага складу пагранічных і ўнутраных войск НКУС СССР. З 1943 у складзе Цэнтр. фронту, удзельнічала ў Курскай бітве 1943 і Арлоўскай аперацыі 1943. У складзе 2-га Бел. фронту (1-га фарміравання) удзельнічала ў Палескай аперацыі 1944 (т. зв. Ковельскай аперацыі). У перыяд *Беларускай аперацыі 1944* армія налічвала 2 стралк. корпусы (4 дывізіі) і 5 інш. часцей і злучэнняў. У складзе войск 1-га Бел. фронту яна ўдзельнічала ў *Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944,* дзе яе злучэнні і часці наступалі ў абход Брэста з ПдУ, ва ўзаемадзеянні з войскамі 61-й і 28-й армій разграмілі каля 4 дывізій ворага ў раёне на З ад Брэста. Вызначыліся 96-ы стралк. корпус, 1-я, і 160-я стралк. дывізіі, 148-я пушачная арт. брыгады і 48-я інж.-сапёрная брыгада, якім былі нададзены ганаровыя найменні «Брэсцкіх». Армія ўдзельнічала ва Усх.-Прускай, Млаўска-Эльбінгскай, Усх.-Памеранскай і Берлінскай аперацыях. За мужнасць, адвагу і баявое майстэрства тысячы воінаў арміі ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР, 78 з іх прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Многія злучэнні і часці арміі ўзнаг. ордэнамі і ўдастоены ганаровых найменняў.

Камандуючыя: ген.-маёр Г. Ф. Тарасаў (кастр. 1942— крас. 1943), ген.-лейт. І. В. Галаніні (крас.— вер. 1943), ген.-маёр У. М. Шарапаў (вер.— кастр. 1943), ген.-лейт. І. Ф. Нікалаеў (студз.— сак. 1944), ген.-маёр А. І. Рыжоў (сак.— май 1944), ген.-палк. В. С. *Папоў* (май 1944— да канца вайны). *М. І. Камінскі.*

**СЯННО́,** горад, цэнтр Сенненскага р-на, на беразе воз. Сянно, за 56 км на ПдЗ ад Віцебска, за 15 км ад чыг. ст. Бурбін на лініі Лепель — Орша, на аўтадарозе Віцебск — Талачын, звязаны з аўтадарогай Лепель — Орша. 4,3 тыс. жыхароў у 1939. У ліп. 1941 у раёне С. разгарнуліся жорсткія баі. 5.7.1941 падраздзяленні 17-й ням. танк. дывізіі ўварваліся ў горад. З мэтай папярэдзіць прарыў матарызаваных карпусоў ням.-фаш. войск у раён Віцебска васн. савет Зах. фронту ў адпаведнасці з указаннямі Стаўкі Гал. камандавання вырашыў сіламі 20-й арміі (ген.-лейт. П. А. *Курачкін*) нанесці контрудар у напрамку С.— Лепель па флангу 3-й ням. танк. групы. Найбольш цяжкія баі разгарнуліся на Пд ад С. ў перыяд з 6 да 9 ліп. 18-ы мотастралк. полк 2 сутак атакаваў часці 17-й ням. танк. дывізіі і пры падтрымцы 35-га танк. палка сав. воіны выбілі праціўніка з С. Злучэнні 5-га механіз. корпуса (ген.-маёр танк. войск І. П. Аляксеенка) да 8 ліп. прасунуліся на 30—40 км у бок Лепеля (гл. *Лепельскі контрудар 1941*). Моцная падтрымка авіяцыі 2-й ням. паветр. арміі і падцягнутыя праціўнікам рэзервы вымусілі сав. войскі спыніць наступленне. У перыяд ням.-фаш. акупацыі гітлераўцы ў С. і раёне знішчылі 3104 чал., спалілі ў С. 3,5 тыс. дамоў. У вер. 1942 ад акупантаў была ачышчана паўд.-ўсх. частка Сенненскага р-на. На тэр. раёна дзейнічалі падп. Сенненскія райкомы КП(б)Б (5.4.1943—26.6.1944) і ЛКСМБ (11.6.1942—26.6.1944), парт.-камсам. падполле, партыз. брыгады 1-я імя Заслонава, М. П. Гудкова, Сенненская, 1-я і 16-я Смаленскія, Лёзненская, 1-я Беларуская (2-га складу), 2-я імя Заслонава, Смаленскі партыз. полк, асобныя атрады «Меч» і «Трэція» (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«Бальшавіцкая трыбуна».* Да жн. 1942 склалася Сенненска-Аршанская партызанская зона. Вызвалена С. 25.6.1944 воінамі 9-й гвардз. механіз. брыгады (палк. П. І. Гарачаў) 3-га гвардз. механіз. корпуса 3-га Бел. фронту ў ходзе *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944.* У С. брацкія магілы сав. воінаў і партызан, на якіх пастаўлены помнікі. *Л. В. Календа.*

**СЯНЬКО́Ў** Ціт Рыгоравіч (2.4.1917, в. Старакожаўка Горацкага р-на — 22.2.1985), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Краснадарскае васн.-авіяц. вучылішча лётчыкаў-назіральнікаў (1940), Васн.-паветр. акадэмію (1958). З ліп. 1941 на Зах., Сталінградскім, Варонежскім, Сцяпным, 1-м і 2-м Укр. франтах, штурман звяна, эскадрыллі, бамбардзіровачнага авіяпалка. Удзельнік Сталінградскай, Курскай бітваў, Корсунь-Шаўчэнкаўскай, Львоўска-Сандамірскай, Яска-Кішынёўскай, Вісла-Одэрскай і Берлінскай аперацый. Зрабіў 142 баявыя вылеты. 29.11—4.12.1943 бомбавымі ўдарамі па чыг. ст. Знаменка Кіраваградскай вобл. эскадрылля, у складзе якой быў штурман С., знішчыла 10 чыг. цыстэрнаў з гаручым, 28 вагонаў з арт. снарадамі, 2 склады з боепрыпасамі, батарэю зенітнай артылерыі. Да 1961 у Сав. Арміі, палкоўнік.

**СЯРГУ́ШКА** Антон Іванавіч (н. 25.3. 1910, в. Верхняе Фаміно Верхнядзвінскага р-на), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1941. Скончыў ВПШ пры ЦК КПСС (1955). З 1933 на сав. і парт. рабоце ў Віцебскай і Баранавіцкай абл. У партызанах з мая 1942: у чэрв.— жн. 1942 камісар атрада, у сак. 1943— студз. 1944— *партызанскай брыгады Асвейскай імя М. В. Фрунзе,* адначасова ў жн. 1942— крас. 1943 2-і сакратар

Дрысенскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—70 на парт. і сав. рабоце ў Полацкай і Брэсцкай абл.

**СЯРЖА́НТАЎ** Іван Якаўлевіч (17.2.1919 в. Якаўлевічы Аршанскага р-на — 29.4.1943), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС. Скончыў Аршанскі аэраклуб (1938), Чугуеўскую школу ваен. лётчыкаў (1941). З 1941 на Паўд.-Зах. фронце. Лётчык-знішчальнік лейтэнант С. зрабіў 258 баявых вылетаў, правёў 85 паветр. баёў, збіў асабіста 13 самалётаў праціўніка, 8 у групе. Памёр ад ран. Яго імем названы вуліцы ў Оршы, Растове-на-Доне.



Ц. Р. Сянькоў. І. Я. Сяржантаў. Р. А. Такуеў. М. Ф. Талкачоў. М. М. Тамашэвіч. І. Г. Тамашэўскі.



**ТАКУ́ЕЎ** Рыгор Аркадзевіч (н. 23.12. 1917, в. Паташаўка Шэнкурскага р-на Архангельскай вобл.), удзельнік партыз. руху ў Палескай вобл. Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1951. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну на фронце з 1941, з чэрв. 1942 у партызанах: камандзір падрыўной групы, са жн. 1943 да сак. 1944 камандзір 78-га дыверсійнага атрада *партызанскай брыгады 125-й Капаткевіцкай.* Пад яго камандаваннем партызаны пусцілі пад адхон 55 варожых эшалонаў і 35 абстралялі; асабіста Т. пусціў пад адхон 19 эшалонаў. Да 1980 на кіруючай рабоце ў ДСТ «Спартак».

**ТАЛАКВА́ДЗЕ** Уладзімір Мануілавіч (н. 5.2.1914, с. Мтысціры Махарадзеўскага р-на Грузінскай ССР), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1940. У Чырв. Арміі з 1933. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. З чэрв. 1941 на фронце. У партызанах з вер. 1941: камандзір групы, з чэрв. 1942 атрада «Грозны», у сак. 1943—ліп. 1944 *партызанскай брыгады імя С. М. Кароткіна.* Да 1957 у Сав. Арміі, з 1958 на гасп. рабоце ў г. Махарадзе Грузінскай ССР. Ганаровы грамадзянін г. п. Шуміліна.

**ТАЛАЧЫ́Н,** горад, цэнтр Талачынскага р-на, на р. Друць. За 124 км на ПдЗ ад Віцебска, чыг. станцыя на лініі Мінск — Орша, на аўтамагістралі Мінск — Масква. Звязаны аўтадарогамі з г. Сянно і г. п. Круглае. З 1924 раённы цэнтр, у 1938—55 гар. пасёлак. 6,1 тыс. жыхароў у 1939. 6—9.7.1941 у раёне Т. упартыя баі вяла 1-я Маскоўская мотастралк. дывізія (палк. Я. Р. *Крэйзер*). Пасёлак двойчы пераходзіў з рук у рукі. У раёне Т. сав. войскі ўзялі ў палон каля 800 салдат і афіцэраў праціўніка, захапілі сцяг 47-га Берлінскага танк. корпуса. Акупіраваны 8.7.1941 ням.-фаш. захопнікамі, якія за гады акупацыі знішчылі ў пасёлку і раёне 9521 чал. На тэр. раёна дзейнічалі Талачынскія падп. райкомы КП(б)Б (8.7.1943 —26.6.1944) і ЛКСМБ (жн. 1942— 26.6.1944), партыз. брыгады «Граза», М. П. Гудкова, «Чэкіст», 1-я і 2-я імя Заслонава, 2-я Бел. імя Панамарэнкі (2-га складу), 1-я Смаленская, партыз. палкі Смаленскі і «Трынаццаць», асобныя партыз. атрады 1-ы, 5, 8, 10, 24, 28, 30-ы, партыз. група «Артур» (гл. адпаведныя артыкулы); выдавалася падп. газ. *«Чырвоны хлебароб».* Вызвалены 26.6.1944 воінамі 19-й гвардз. танк. брыгады (палк. Г. А. Пахадзееў) 3-га гвардз. танк. корпуса 5-й гвардз. танк. арміі, 1-й гвардз. штурмавой авіядывізіі 1-й паветр. арміі 3-га Бел. фронту ў ходзе *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944.*

У Т. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, на ёй пастаўлены помнік — скульптура воіна, на мемарыяльных дошках імёны загінуўшых, помнік вызвалення ў гонар воінаў, якія вызвалілі Т. ад ням.-фаш. захопнікаў.

*Г. К. Кісялёў.*

**ТАЛА́Ш** Васіль Ісакавіч (25.12.1844, в. Белка Петрыкаўскага р-на —23.8. 1946), удзельнік партыз. руху ў грамадз. і Айч. войнах, народны герой. У 1919 арганізаваў і ўзначаліў партыз. атрад (300 чал.). Быў разведчыкам 417-га палка Чырв. Арміі. Узнаг. ордэнамі Чырв. Сцяга. Пасля грамадз. вайны старшыня Навасёлкаўскага сельсавета. У час Айч. вайны 100-гадовы Т. памагаў партызанам, за што арыштаваны акупантамі і пасаджаны ў петрыкаўскую турму. Падтрымліваў сувязь з Мінскім падп. абкомам КП(б)Б. З пач. 1943 у Маскве, выступаў перад рабочымі, воінамі, якія адпраўляліся на фронт. Лістоўкі з заклікам Т. да барацьбы супраць гітлераўцаў распаўсюджваліся на акупіраванай тэр. Беларусі. Яго імем названы вуліцы ў Мінску (і завулак) і Петрыкаве; у Петрыкаве помнік. Прататып дзеда Талаша ў аповесці Я. Коласа «Дрыгва».

**ТАЛКАЧО́Ў** Іван Кузьміч (н. 20.6. 1905, в. Омельна Рагачоўскага р-на), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Палескай вобл. Чл. КПСС з 1932. З 1932 на гасп., сав. і парт. рабоце ў Петрыкаўскім р-не. У жн.— кастр. 1941 сакратар Петрыкаўскага, у жн. 1943—ліп. 1944— Жыткавіцкага падп. райкомаў КП(б)Б, у чэрв.—ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады 50-й Жыткавіцкай.* У 1944—60 на парт., сав. і гасп. рабоце ў Жыткавіцкім і Нараўлянскім р-нах.

**ТАЛКАЧО́Ў** Мікалай Іванавіч (17.2. 1899, г. Бежыца, цяпер у межах г. Бранска —7.5.1942), адзін з кіраўнікоў *Мінскага партыйнага падполля.* Чл. КПСС з 1920. У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. З 1937 брыгадны камісар. Дэп. ВС РСФСР у 1938—41. У 1941 нам. камандзіра па палітчастцы 85-й стралк. дывізіі 3-й арміі Зах. фронту, удзельнік абарончых баёў на тэр. Беларусі. Цяжка паранены, трапіў у палон. Мінскія падпольшчыкі вызвалілі і вылечылі яго. З ліст. 1941 уключыўся ў падп. барацьбу. У падп. арг-цыі Ваенны савет партызанскага руху, якая працавала ў кантакце з *Мінскім падпольным гаркомам КП(б)Б,* узначальваў аддзел агітацыі і прапаганды (палітаддзел). Пад яго кіраўніцтвам падпольшчыкі выдавалі і распаўсюджвалі сярод насельніцтва лі-

стоўкі, падтрымлівалі сувязь з партызанамі. У канцы сак. 1942 арыштаваны і 7.5.1942 загублены гітлераўцамі.

**ТАЛКАЧО́Ў** Міхаіл Фёдаравіч (н. 30.6. 1922, в. Дубраўка Добрушскага р-на), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1942. З жн. 1941 на Паўд., Паўн.-Зах., 2-м Прыбалт., 1-м Бел. франтах. Камандзір батарэі знішчальнага процітанк. дывізіёна ст. лейтэнант Т. вызначыўся ў час прарыву варожай абароны на р. Одра. Яго батарэя знішчыла 6 агнявых кропак праціўніка, больш за 50 гітлераўцаў, расчысціла шлях пяхоце. У ноч на 23.4.1945 перарэзала шашу, не дала рэзервам ворага прарвацца да Берліна, знішчыла больш за 100 гітлераўцаў і заглушыла агонь 3 дальнабойных гармат. Удзельнік штурму рэйхстага, *Парада Перамогі* 24.6.1945 у Маскве. Да 1972 у Сав. Арміі, палкоўнік.

**ТАЛО́ЧКА** Канстанцін Дзям'янавіч (1903, в. Падстарынь Івацэвіцкага р-на —1.11.1943), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Брэсцкай вобл. Чл. КПЗБ з 1926. За рэв. дзейнасць не аднойчы арыштаваны польск. буржуазнымі ўладамі. Пасля вызвалення Зах. Беларусі ў 1939 старшыня Івацэвіцкага пасялковага Савета. У партызанах з ліп. 1941: камандзір групы, з ліп. 1943 камісар атрада, у вер.— ліст. 1943 камісар *партызанскай брыгады імя П. К. Панамарэнкі.* Загінуў у баі. Яго імем названы вуліцы ў Івацэвічах і в. Быцень Івацэвіцкага р-на.

**ТА́ЛЬКАЎСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1942,** падрыў партыз. атрадамі «Полымя» (гл. ў арт. *Партызанская брыгада «Полымя»*) і імя Сталіна (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 12-я кавалерыйская імя І. В. Сталіна*) чыг. моста цераз р. Талька каля аднайменнай чыг. станцыі на ўчастку Пухавічы — Асіповічы 9.10.1942.

Чыг. мост цераз р. Талька даўжынёй 25 м (па інш. крыніцах 35 м) ахоўваўся гарнізонам (каля 40 гітлераўцаў), які размяшчаўся ў будынку блокпаста і 4 дзотах і быў узброены гарматай, 2 станковымі, 3 ручнымі кулямётамі, вінтоўкамі. Побач на ст. Талька размяшчаўся гарнізон, які налічваў каля 300 гітлераўцаў і меў тэлефонную сувязь з аховай моста. У аперацыі, агульнае кіраўніцтва якой ажыццяўлялі камандзіры атрадаў У. А. *Ціхамiраў* і Я. Ф. *Філіпскіх*, прымалі ўдзел 140 партызан, узброеных гарматамі, мінамётамі, кулямётамі і вінтоўкамі. Паводле плана, які быў распрацаваны камандаваннем атрадаў, намячалася адначасовае нападзенне на мост і ст. Талька, каб скаваць гарнізон станцыі і не даць яму магчымасці прыйсці на дапамогу ахове моста.

8.10.1942 з наступленнем цемнаты партыз. атрады пераправіліся на пароме цераз р. Свіслач і да 24 гадз асн. іх сілы сканцэнтраваліся на ўзлессі на У ад моста. Партызаны атрада імя Сталіна перакрылі засадамі шляхі падыходу падмацаванняў праціўніка з найбліжэйшых гарнізонаў на раз'ездзе Блужа, станцыях Вярэйцы, Пухавічы, Асіповічы і замініравалі чыг. пуці з абодвух бакоў ст. Талька. Па сігналу чырв. ракеты партызаны адкрылі арт. агонь па ахове моста і станцыі, а потым перайшлі ў атаку. Ударная група пад камандаваннем нач. штаба атрада «Полымя» Ф. Я. Філаценкава ўварвалася ў дзоты і блокпост. Ашаломленая раптоўным ударам ахова моста пасля нядоўгага супраціўлення разбеглася. Другая ўдарная група на чале з камандзірам роты атрада імя Сталіна М. Патапавым знішчыла заслоны праціўніка, дасягнула першых дамоў ст. Талька і заняла абарону ў раёне пакгаўзаў. Гарнізон станцыі і салдаты, якія выгрузіліся з эшалона, што стаяў на станцыі, занялі абарону і адкрылі моцны кулямётна-ружэйны агонь па мосце. Але група падрыўнікоў пад кіраўніцтвам камісара атрада «Полымя» В. Я. Шклярыка паспела закласці толавыя зарады пад мост і падарвала яго. У ходзе аперацыі групы прыкрыцця флангаў пусцілі пад адхон 2 чыг. саставы на ўчастках дарогі Блужа — Талька і Талька — Вярэйцы. Партызаны, захапіўшы трафеі, арганізавана адышлі. У в. Сёмкава Слабодка Асіповіцкага р-на атрад імя Сталіна рассеяў засаду паліцэйскіх. У выніку бою гітлераўскія паслугачы разбегліся, кінуўшы свае веласіпеды. У ажыццяўленні Т. а. вял. дапамогу партызанам аказала падп. парт. арг-цыя ст. Талька, якая атрымала спец. заданне Пухавіцкага падп. РК КП(б)Б. У выніку аперацыі рух паяздоў па чыгунцы быў спынены на 12 сутак. *М. У. Філімоненкаў.*

**ТАМАШЭ́ВІЧ** Мікалай Мікалаевіч (13.5.1921, в. Новыя Валосавічы Лепельскага р-на — 23.9.1983), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1944. На фронце з 1941. Удзельнік баёў у Эстоніі, Запаляр'і. Камандзір танка мал. лейтэнант Т. вызначыўся ў студз. 1944 пры вызваленні Ленінградскай вобл. Экіпаж Т. прарваўся ў тыл ворага і вёў 4-часовы бой да падыходу сав. часцей, знішчыў 2 батарэі, 2 абозы, шмат жывой сілы. Удзельнічаў у разгроме артдывізіёна і яго аховы. На Пд ад г. Луга ў складзе танк. батальёна і роты дэсантнікаў 3 дні трымаў абарону. Да 1956 у Сав. Арміі.

**ТАМАШЭ́ЎСКІ** Іван Герасімавіч (н. 25. 11.1918, в. Рудніца Сенненскага р-на), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум (1938), Мелітопальскае ваен. авіяц. вучылішча штурманаў (1940). З чэрв. 1941 на Зах., Паўд.-Зах., Сталінградскім, Паўд. і 4-м Укр. франтах. Штурман звяна начных бамбардзіроўшчыкаў ст. лейтэнант Т. зрабіў 583 баявыя вылеты, з іх 96 на разведку войск праціўніка, знішчыў 6 варожых самалётаў, 12 танкаў, 2 бронемашыны, 39 аўтамашын з войскамі і грузамі, паравоз, каля 20 чыг. вагонаў, 4 пераправы, 11 складоў з боепрыпасамі, пашкодзіў 2 чыг. масты. Да 1955 у Сав. Арміі, маёр. Жыве ў г. Жытомір.

**ТАМІ́ЛАЎ** Павел Пятровіч (27.3.1919, в. Бранчыцы Салігорскага р-на — 8.3.1945), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Пінскай вобл. Чл. КПСС з 1941. У 1938—41 у органах НКУС. У партызанах з сак. 1942; камандзір групы, роты, нач. штаба атрада, нач. разведкі, чл. штаба партыз. атрадаў Пінскай вобл. З мая 1943 камандзір арганізатарскай групы, атрада, у жн. 1943 — лют. 1944 — *партызанскай брыгады «Савецкая Беларусь»,* адначасова чл. Давыд-Гарадоцкага падп. РК КП(б)Б. З 1944 нач Лагішынскага райаддзела НКУС. Загінуў пры ліквідацыі банды. Яго імем названа вуліца ў г. п. Лагішын.



Г. С. Таміло́ўскі. М. Тапівалдыеў.

**ТАМІЛО́ЎСКІ** Георгій Сяргеевіч (н. 3.7.1913, Мінск), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1943. У Чырв. Арміі з 1931. З 1942 на Бранскім, Цэнтр., 1-м і 4-м Укр. франтах, камандзір палка, нам. камандзіра і камандзір дывізіі. Падпалкоўнік Т. вызначыўся пры вызваленні Украіны. У чэрв.— вер. 1943 полк пад яго камандаваннем вызваліў сотні населеных пунктаў, знішчыў 11 танкаў, 2 самаходныя гарматы, больш за 100 кулямётаў, 32 мінамёты, 14 аўтамашын, шмат боепрыпасаў, заглушыў агонь 11 мінамётных батарэй і 86 агнявых кропак, знішчыў і ўзяў у палон больш як 2800 гітлераўцаў; у вер. з баямі фарсіраваў Дзясну, Дняпро, Прыпяць. Калі вораг адрэзаў полк ад сав. войск, Т. вывеў яго на злучэнне з партызанамі А. М. Сабурава. Удзельнічаў у баях за Дукельскі перавал на тэр. Чэхаславакіі. Удзельнік *Парада Перамогі* 24.6.1945 у Маскве. Да 1959 у Сав. Арміі, палкоўнік. Да 1961 на адм. рабоце.

**ТАПІВАЛДЫ́ЕЎ** Мамадалі (партыз. мянушка К а з б е к; 20.9.1919, кішлак Пандыган Рыштанскага р-на Ферганскай вобл.—7.5.1969), удзельнік партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1945. З 1941 на Зах. фронце. З ліп. 1942 камандзір аддзялення разведкі *партызанскага*

занскага атрада 5-га. У 1944 пры адступленні гітлераўцаў Т. з аддзяленем мініраваў масты і дарогі ў Круглянскім р-не, захапіў і абяззброіў варожы гарнізон. З 1944 старшыня калгасаў на радзіме. Яго імем названа вуліца ў г. п. Круглае.

**ТАРА́Н** Павел Андрэевіч (18.10.1916, с. Шолахава Нікапальскага р-на Днепрапятроўскай вобл.), двойчы Герой Сав. Саюза (1942, 1944), ген.-лейт. авіяцыі (1967). Чл. КПСС з 1942. Скончыў Качынскую ваен. авіяц. школу лётчыкаў (1938), Ваен. акадэмію Генштаба (1958). Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. На фронце з 1941 у авіяцыі далёкага дзеяння: камандзір звяна, нам. камандзіра і камандзір эскадрыллі, рабіў рэйсы да бел. партызан. Удзельнік абароны Ленінграда, баёў на Паўн. Каўказе, Украіне, вызвалення Мінска, ліквідацыі *мінскага «катла»*, баёў у Прыбалтыцы, Усх. Прусіі, пад Берлінам. Усяго зрабіў 386 баявых вылетаў. Да 1979 у Сав. Арміі.



П. А. Таран. У. Э. Тарановіч.

**ТАРАНЕ́НКА** Фёдар Фёдаравіч (н. 15.1.1915, с. Шчарбінаўка Таранаўскага р-на Кустанайскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партызэ. руху ў Мінскай і Брэсцкай абл. Чл. КПСС з 1940. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1952). З 1934 на сав. рабоце. З 1936 у Чырв. Арміі. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. У партызанах з жн. 1942: нач. штаба кав. групы, брыгады, у чэрв.— ліст. 1943 і ў крас.— ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады «За Радзіму» імя А. К. Флегантава.* З ліп. 1944 на 2-м Укр. фронце. У 1945—64 выкладчык ваен. вучылішчаў, потым на пед. рабоце.

**ТАРАНО́ВІЧ** Уладзімір Эраставіч (25.11.1897, Мінск —25.2.1983), ген.-палк. артылерыі (1944). Чл. КПСС з 1939. Скончыў Ваен.-тэхн. акадэмію імя Дзяржынскага (1932). У арміі з 1914, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны, узнаг. ордэнам Чырв. Сцяга. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. З ліп. 1941 на фронце: начальнік артылерыі фронту, Маскоўскай зоны абароны, нам. па артылерыі камандуючага бранятанк. і механіз. войскамі Чырв. Арміі. Удзельнік Маскоўскай і Сталінградскай бітваў, Корсунь-Шаўчэнкаўскай і Вісла-Одэрскай аперацый, разгрому войск імперыялістычнай Японіі ў 1945. Да 1953 на адказных пасадах у войсках і цэнтр. апараце Міністэрства абароны СССР.

**ТАРА́САВА-РА́ТАМСКАЕ ПАРТЫ́ЙНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з ліп. 1941 да крас. 1942 у в. Тарасава і пас. Ратамка Мінскага р-на. Аб'ядноўвала 28 чал. Кіруючае ядро: В. І. Лошыцкі, П. М. Бортнік, А. І. Вольскі, П. Ф. Кургаеў, Я. У. Саблер. Падпольшчыкі вялі паліт. агітацыю, прымалі па радыё і распаўсюджвалі сярод насельніцтва зводкі Саўінфармбюро. З дапамогай жыхароў в. Тарасава ратавалі, лячылі, забяспечвалі харчамі трапіўшых у акружэнне параненых воінаў Чырв. Арміі, пераправўлялі іх да партызан. Атрымаўшы заданне *Мінскага партыйнага падполля* стварыць партыз. атрад, здабывалі зброю, боепрыпасы. Да канца сак. 1942 група падпольшчыкаў і воінаў была падрыхтавана да выхаду ў партызаны. У ноч на 3.4. 1942 фашысты арыштавалі і пасля катаванняў расстралялі ўсіх кіраўнікоў падполля, а таксама падпольшчыкаў І. А. Бараноўскага, Р. Башкірава, С. І. Бортнік, І. Ф. і Ф. Ф. Бурчакоў, С. І. Гатоўку, А. П., В. Дз. і Г. Жаркоўскіх, Дз. А. Жызнеўскага, У. Кісялёва, Г. Д. Лошыцкую, Ф. А. Траццякова, М. Ушакова, І. Холадава і інш. Паблізу в. Тарасава ў памяць аб падпольшчыках у 1970 пастаўлена стэла.

*Я. Д. Гапееў.*

**ТАРАСЕ́ВІЧ** Фёдар Сцяпанавіч (н. 4.6. 1911, в. Слабодка Клічаўскага р-на), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай і Гомельскай абл. Чл. КПСС з 1939. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1940). З 1929 рабочы-шкловыдзімальшчык. З 1931 у Чырв. Арміі. У партызанах з сак. 1942: нач. штаба атрада, камандзір групы, з кастр. 1942 *партызанскага атрада 720-га*, у ліст. 1942— лют. 1943 *партызанскай брыгады 4-й Клічаўскай*, у лют. 1943 — лют. 1944 *партызанскай брыгады 8-й Рагачоўскай*, адначасова чл. Рагачоўскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—70 у Прэзідыуме ВС БССР.

**ТАРЛО́ЎСКІ** Васіль Іванавіч (н. 14.8. 1902, в. Ачыжа Чэрвеньскага р-на), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Мінскі пед. ін-т (1940). З чэрв. 1941 на Паўд., Данскім, Варонежскім, Цэнтр. і 1-м Прыбалт. франтах. Камандзір стралк. роты ст. лейтэнант Т. вызначыўся ў баях за вызваленне Віцебскай вобл. 23.6.1944 яго рота прарвала абарону праціўніка ў Сіроцінскім р-не, перакрыла чыгунку Віцебск — Полацк; 24.6.1944 першая ў дывізіі пераправілася цераз Зах. Дзвіну каля в. Двbooрышча Бешанковіцкага р-на, захапіла плацдарм і ўтрымлівала яго да падыходу гал. сіл дывізіі. Да 1953 у Сав. Арміі, маёр. Да 1958 на выкладчыцкай рабоце. Жыве ў г. Іванава.

**ТАРО́ПЕЦКА-ХО́ЛМСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1942,** наступальная аперацыя 9 студз. —6 лют. войск 3-й (ген. лейт. М. А. Пуркаеў) і 4-й (ген. палк. А. І. Яроменка) ударных армій Паўн.-Зах. фронту (ген.-лейт. П. А. Курачкін), з 22 студз. 3-я і 4-я ўдарныя арміі ў складзе Калінінскага фронту (ген.-палк. І. С. Конеў); праведзена на завяршальным этапе *Маскоўскай бітвы 1941—42.* 3-я і 4-я ўдарныя арміі ў пачатку студз. займалі абарону на рубяжы ўсх. бераг воз. Селігер, г. Асташкаў, паўн. бераг воз. Волго. Праціўнік не чакаў актыўных дзеянняў сав. войск на гэтым напрамку і ў палосе фронту каля 100 км меў 3 пях. і 1 кав. дывізіі 16-й арміі групы армій «Поўнач». Сав. камандаванне ставіла задачу сіламі 3-й і 4-й ударных армій разграміць на стыку груп армій «Поўнач» і *«Цэнтр»* групоўку праціўніка ў азёрным раёне на З ад г. Асташкаў; абысці варожую ржэўска-вяземскую групоўку з ПнЗ і ва ўзаемадзеянні з войскамі Калінінскага і Зах. франтоў акружыць і знішчыць яе. 9 студз. войскі 3-й і 4-й ударных армій перайшлі ў наступленне, да 12 студз. прасунуліся на 25—30 км. 4-я ўдарная армія вызваліла 16 студз. г. Андрэапаль, 21 студз. г. Зах. Дзвіна і разам з партызанамі г. Таропец перарэзала чыгунку Вял. Лукі — Ржэў, што садзейнічала прасоўванню войск правага крыла Калінінскага фронту. Войскі 3-й ударнай арміі да 22 студз. акружылі гарнізон праціўніка ў г. Холм і абышлі з Пд дзямянскую групоўку ням. 16-й арміі. У далейшым часці 3-й і 4-й ударных армій развілі наступленне на смаленскім і віцебскім напрамках у глыбокі тыл ням. групы армій «Цэнтр». У пач. лютага 3-я ўдарная армія выйшла на подступы да Вял. Лук, 4-я ўдарная — да Веліжа і Дзямідава, 249-я стралк. дывізія 4-й арміі прарвалася да Віцебска. Каб спыніць прасоўванне сав. войск ням. камандаванне выставіла на гэтым напрамку дадаткова 4 пях. дывізіі, што былі перакінуты з Зах. Еўропы. Войскі 3-й і 4-й ударных армій, якія займалі каля 300 км па фронце, не змаглі пераадолець моцнага супраціўлення праціўніка і перайшлі да абароны. У выніку Т.-Х. а. сав. войскі прасунуліся да 250 км, абышлі з ПнЗ ржэўска-вяземскую, з Пд дзямянскую групоўкі праціўніка, стварыўшы ўмовы для іх разгрому. Было парушана аператыўнае ўзаемадзеянне паміж ням.-фаш. групамі армій «Поўнач» і «Цэнтр», у лініі ням. фронту паміж Веліжам і Усвятамі ўтварыўся 40-кіламетровы пралом — т. зв. *Віцебскія «вароты»* (Суражскія «вароты»), якія дзейнічалі з лют. да канца вер. 1942, праз іх ажыццяўлялася забе-

спячэнне бел. партызан, сувязь іх з сав. войскамі Калінінскага фронту і сав. тылам. Сав. войскам, якія наступалі на віцебскім напрамку, вял. дапамогу аказалі бел. партызаны (атрады М. П. Шмырова, Д. Ф. Райцава, М. І. Дзячкова, М. Ф. Біруліна, Я. З. Захарава і інш.), якія зімою 1941/42 выгналі гітлераўцаў з шэрагу акупіраваных прыфрантавых раёнаў Віцебскай вобл., разам з часцямі 4-й ударнай арміі ўтрымлівалі подступы да Віцебскіх «варот» (1-я Беларуская і 2-я Беларуская імя Панамарэнкі партыз. брыгады).

**ТАРУНО́Ў** Васіль Фёдаравіч (5.3.1914, в. Старынкі Меленкаўскага р-на Уладзімірскай вобл.—1944), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1943. З чэрв. 1941 на фронце. З мая 1942 у партызанах: камандзір узвода, атрада, у ліп. 1943 — чэрв. 1944 *партызанскай брыгады «Смерць фашызму»*. 26.6.1944 у баі схоплены карнікамі і закатаваны.

**ТАТА́РАЎ** Яроній Аляксеевіч (7.11. 1902, в. Новы Крупец Добрушскага р-на —23.12.1982), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху ў Палескай вобл. Чл. КПСС з 1929. З 1928 на сав., гасп. і парт. рабоце, з 1940 сакратар Замбраўскага РК КП(б)Б. З 1941 у распараджэнні ЦК КП(б)Б. У партызанах з мая 1942: упаўнаважаны ЦК КП(б)Б, у ліп.— кастр. 1943 камісар *партызанскай брыгады 37-й Ельскай*, адначасова ў крас.— жн. 1943 чл. *Палескага падпольнага абкома КП(б)Б*, у жн.— кастр. 1943 сакратар Ельскага падп. РК КП(б)Б. У ліст. 1943— ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады 123-й Акцябрскай імя 25-годдзя БССР*, адначасова ў ліст. 1943— чэрв. 1944 сакратар Акцябрскага падп. РК КП(б)Б. У 1944— 59 на парт. і гасп. рабоце ў Гродне.

**ТАЎПЕ́КА** Аляксандр Рыгоравіч (1914, в. Доктаравічы Капыльскага р-на — 21.6.1944), Герой Сав. Саюза (1944). З 1941 на Ленінградскім фронце. Камандзір мінамётнага разліку старшына Т. вызначыўся ў чэрв. 1944 у час прарыву абароны ворага на Карэльскім перашыйку і пры вызваленні Выбарга. Загінуў у баі. Пахаваны ў Ленінградзе. Імем Т. названы вуліца ў г. Капыль, вуліца і школа на радзіме. Яго імя занесена ў Кнігу народнай славы Капыльскага р-на.

**ТА́ЦЫНСКІ ТА́НКАВЫ КО́РПУС** гвардзейскі Чырванасцяжны ордэна Суворава. Сфарміраваны на Паўд. фронце ў крас. 1942 як 24-ы танк. корпус у складзе 3 танк. і 1 матастралк. брыгад. Удзельнічаў у баях на Доне, дзе вызначыўся пры разгроме ворага ў раёне ст. Тацынская, пераўтвораны ў 2-і гвардз. танк. корпус (26.12.1942), яму нададзена ганаровае найменне «Тацынскага» (27.1. 1943). У 1943 удзельнічаў у баях за Данбас, у раёне Харкава, у Курскай бітве, Смаленскай аперацыі, у кастр. 1943— крас. 1944 — у наступальных аперацыях Зах. фронту на аршанскім і віцебскім напрамках. З чэрв. 1944 корпус у складзе 3-га Бел. фронту ўдзельнічаў у *Беларускай аперацыі 1944*. У перыяд *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944* уведзены 26.6.1944 у прарыў як рухомая група 11-й гвардз. арміі, перарэзаў аўтамагістраль Орша — Мінск і выйшаў у тыл аршанскай групоўкі праціўніка. Ва ўзаемадзеянні са злучэннямі 11-й гвардз. і 31-й армій вызваліў Оршу (27 чэрв.), імкліва развіваючы наступленне, у ноч на 30 чэрв. фарсіраваў Бярэзіну ў раёне в. Чарняўка (за 30 км на Пд ад Барысава) і павёў наступленне на Мінск. Злучэнні і часці корпуса ва ўзаемадзеянні з 3-м гвардз. танк. корпусам 5-й гвардз. танк. арміі і злучэннямі 31-й арміі, якія падышлі, зламалі супраціўленне варожага гарнізона і вызвалілі Мінск (3 ліп.). Першай у сталіцу Беларусі ўварвалася 4-я гвардз. танк. брыгада корпуса пад камандаваннем палк. А. А. *Лосіка*. За паспяховае выкананне заданняў камандавання пры вызваленні Мінска і праяўленыя асабовым складам доблесць і мужнасць корпус і яго брыгады былі ўзнаг. ордэнамі Чырв. Сцяга (23.7.1944), а сотні воінаў — ордэнамі і медалямі. Палк. А. А. Лосіку, камандзірам танк. узводаў лейт. М. І. Колычаву і мал. лейт. Дз. Г. Фролікаву прысвоена званне Героя Сав. Саюза. 4-й гвардз. танк. брыгадзе, 401-му гвардз. і 1500-му самаходнаму арт. палкам, 273-му мінамётнаму палку, 28-му асобнаму гвардз. мінамётнаму дывізіёну рэактыўнай артылерыі, 79-му асобнаму матацыклетнаму батальёну і 1695-му зенітнаму арт. палку нададзены ганаровыя найменні «Мінскіх». У канцы ліп. 1944 корпус фарсіраваў Нёман у раёне Бірштаны і ў складзе 33-й арміі выйшаў да граніц Усх. Прусіі. У студз. 1945 удзельнічаў у разгроме праціўніка ва Усх. Прусіі, вызначыўся ў баях і быў узнаг. ордэнам Суворава II ступені (19.2.1945). За гады вайны каля 14 тыс. воінаў корпуса ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР, 16 з іх прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

Камандзіры: ген.-маёр танк. войск, з 26.12.1942 ген.-лейт. танк. войск В. М. Баданаў (крас. 1942— чэрв. 1943), палк., з 31.8.1943 ген.-маёр танк. войск, з 2.11. 1944 ген.-лейт. танк. войск А. С. *Бурдзейны* (чэрв. 1943— да канца вайны).

У Мінску ў 1952 каля Дома афіцэраў на гранітным пастаменце ўстаноўлены танк Т-34, які першым уварваўся ў горад.

*М. І. Камінскі.*

В. І. Тарлоўскі. А. Р. Таўпека.





ТАРОПЕЦКА—ХОЛМСКАЯ АПЕРАЦЫЯ 9 студзеня 6—лютага 1942 г.

**ТКАЧЭ́НКА** Міхаіл Мікалаевіч (28.8. 1922, г. п. Бешанковічы —9.3.1948), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1943. Скончыў школу ваен. лётчыкаў (1942). На фронце з 1942. Камандзір звяна штурмавога авіяпалка лейтэнант Т. прымаў удзел у баях на

Паўн. Каўказе, вызваленні Украіны, Крыма, Румыніі, Венгрыі. За час вайны зрабіў 150 баявых вылетаў, знішчыў 4 танкі, 17 гармат, 9 кропак зенітнай артылерыі, 48 аўтамашын, 3 склады з боепрыпасамі, 9 мінамётаў, 4 катэры, каля 160 гітлераўцаў. Яго імем названы ў Бешанковічах вуліца, завулак, школа, парк, у г. Полацк — вуліца.

М. М. Ткачэнка. Я. А. Траццякоў.



**ТО́РЫК** Мікалай Антонавіч (н. 15.3. 1906, в. Перавоз Бярэзінскага р-на), віцэ-адмірал (1958). Чл. КПСС з 1927. Скончыў акадэміі Ваен.-палітычную (1937), Генштаба (1952). У Чырв. Арміі з 1928, у ВМФ з 1937. У Айч. вайну нач. палітупраўлення Паўн. флоту. Пасля вайны да 1966 на адказных пасадах у флоце.

**ТО́ЎСТЫ** Віктар Пятровіч (н. 6.6.1914, в. Літавец Дзяржынскага р-на Мінскай вобл.), ген.-лейтэнант (1965). Чл. КПСС з 1939. Скончыў Ваен. электратэхн. акадэмію (1941). З ліп. 1941 на Ленінградскім, Данскім, Варонежскім, Сцяпным, 2-м і 3-м Укр. франтах, нач. штаба асобнага палка сувязі, нач. сувязі стралк. корпуса. Удзельнік баёў пад Ленінградам, Сталінградам, у Малдавіі, Румыніі, Венгрыі, Югаславіі, Аўстрыі. Пасля вайны да 1974 на адказных пасадах у Сав. Арміі.

**ТО́ЎСЦІКАЎ** Павел Фёдаравіч (26.10. 1904, Барысаў — 3.5.1985), ген.-маёр (1945), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1929. У Чырв. Арміі з 1926. Скончыў Кіеўскую пях. школу (1930). Вышэйшыя акадэмічныя курсы пры Ваен. акадэміі Генштаба (1953). З 1941 на Цэнтр., Зах., Бранскім, 1-м Прыбалт. і 3-м Бел. франтах — нач. аператыўнага аддзела штаба дывізіі, нам. нач. аператыўнага аддзела штаба арміі, нач. штаба стралк. дывізіі, корпуса, камандзір дывізіі. Удзельнік абарончых баёў на Беларусі ў 1941, Маскоўскай, Арлоўска-Курскай бітваў, вызвалення Беларусі, разгрому ворага ва Усх. Прусіі. Летам 1944 дывізія пад камандаваннем палкоўніка Т. вызначылася пры фарсіраванні Бярэзіны, авалоданні Барысавам, Мінскам, фарсіраванні Нёмана, у 1945 у баях за Кёнігсберг і Пілаў. Да 1957 у Сав. Арміі і цэнтр. апараце Міністэрства абароны СССР. Ганаровы грамадзянін г. Барысава, дзе імем Т. названа вуліца. Яго імя занесена ў Кнігу народнай славы Барысава.

**ТО́ШЧЫЦКІ БОЙ 1943,** бой партыз. фарміраванняў *Быхаўскай ваенна-аператыўнай групы* супраць ням.-фаш. захопнікаў на чыг. ст. Тошчыца на лініі Магілёў — Жлобін 5.9.1943.

Буйны гарнізон ворага на ст. Тошчыца ахоўваў важны ўчастак ракаднай чыгункі ў аператыўным тыле групы ням. армій «Цэнтр», актыўна перашкаджаў узаемадзеянню партыз. сіл Быхаўскай ВАГ, якія дыслацыраваліся абапал чыгункі ў Быхаўскім і Журавіцкім р-нах. Падыходы да гарнізона прыкрывалі дзоты, драцяныя загароды, кулямётная вышка. Камандаванне ВАГ прыняло рашэнне правесці аперацыю ў светлы час сутак, калі гітлераўцы (паводле звестак партыз. разведкі) адпачывалі пасля начной аховы дарогі і менш за ўсё чакалі нападу. Ажыццяўленню аперацыі перашкаджала адсутнасць сувязі паміж усх. і зах. групоўкамі Быхаўскай ВАГ. Некалькі сувязных загінулі пры спробах пераходу чыгункі. Толькі 2—3.9. 1943 14-гадовай Н. Гадунцовай удалося двойчы прайсці праз паліцэйскія пасты і ўстанавіць сувязь паміж атрадамі. Да 4 гадз раніцы 5 вер. партызаны акружылі ст. Тошчыца. У 9 гадз раніцы раптоўным ударам з 3 партыз. атрадаў 152-га (пазней *партызанскі полк 152-і*), 425-га (пазней *партызанскі полк 425-ы*), 435-га і з У атрадаў 225-га, 820-га і 830-га (гл. адпаведныя артыкулы), 810-га (пазней *партызанскі полк 810-ы*) пад кіраўніцтвам камандзіра злучэння Ф. П. *Падаляна* і нач. штаба І. П. *Федзячэнкі* партызаны падавілі агнявыя кропкі праціўніка, падарвалі вышку з кулямётам. У ходзе бою яны разбурылі пераводныя стрэлкі, узарвалі вадакачку, рэльсы, лесапільны з-д, спалілі на станцыі эшалон, забралі трафеі і арганізавана адышлі. Праціўнік страціў больш за 120 салдат і афіцэраў забітымі і паранеными. Чыгунка на ўчастку бою была выведзена са строю на 72 гадз. У 1973 на будынку ст. Тошчыца ў гонар партызан, якія разграмілі тут 5.9.1943 ням.-фаш. гарнізон, устаноўлена мемар. дошка.

*У. С. Пасэ.*

**ТРАСЦЯНЕ́ЦКІ ЛА́ГЕР СМЕ́РЦІ.** Створаны ням.-фаш. акупантамі ў 1941 каля в. Трасцянец Мінскага р-на для масавай загубы сав. грамадзян і ваеннапалонных, а таксама іншаземных грамадзян.

Масавыя забойствы людзей гітлераўцы праводзілі ва ўрочышчах Благаўшчына і Шашкоўка каля в. Малы Трасцянец. У Благаўшчыне загублена каля 150 тыс. чал. У Шашкоўцы акупанты пабудавалі спец. крэмацыйную печ яму, дзе спальвалі расстраляных і атручаных газам людзей. Расстрэльвалі вязняў каля ўвахода ў печ, асобныя групы людзей падрывалі гранатамі, часта кідалі ў агонь жывымі. Тут спалена больш за 50 тыс. чал. Попел з крэмацыйнай печы выкарыстоўвалі як угнаенне на палях размешчанай у раёне лагера дапаможнай гаспадаркі, што належала ўпраўленню паліцыі бяспекі і СД. У чэрв.— ліп. 1944 у Малым Трасцянцы ў хляве і на штабелях бярвення акупанты спалілі каля 6,5 тыс. чал. Усяго ў Т. л. с. загублена 206,5 тыс. чал. У лагер прывозілі таксама палітвязняў з Германіі, Аўстрыі, Польшчы, Францыі, Чэхаславакіі. Трасцянецкі лагер па колькасці знішчаных людзей стаіць на 4-м месцы пасля Асвенціма, Майданака і Трэблінкі. Каля в. Вялікі Трасцянец помнік ахвярам фаш. тэрору, у Малым Трасцянцы памятны знак.

*В. П. Рамановскі.*

**ТРАЦЦЯКО́Ў** Якаў Адамавіч (23.10. 1916, в. Зябраўка Гомельскага р-на — 4.12.1985), поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПСС з 1943. З 1941 на Зах., Бранскім, Цэнтр., Бел., 2-м і 1-м Бел. франтах. Камандзір гарматы старшына Т. вызначыўся: 23.12.1943 у баі за в. Казловічы Калінкавіцкага р-на гарматным агнём знішчыў 3 бліндажы, дзот, 5 кулямётных кропак і каля 2 узводаў пяхоты; 14.1.1945 у час прарыву абароны праціўніка ў раёне г. Аўгустаў (Польшча) замяніў камандзіра ўзвода, з гармат знішчыў дзот, кулямёт і каля ўзвода пяхоты; 20.4.1945 у баях на подступах да Берліна знішчыў варожую гармату і заглушыў агонь мінамёта. Пасля працаваў у калгасе ў Амурскай вобл.

**ТРАЦЭ́ЎСКІ** Антон Данілавіч (1.5. 1900, в. Прысынак Уздзенскага р-на — 26.4.1960), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху на тэр. Беластоцкай вобл. Чл. КПСС з 1919. Скончыў БДУ (1930). Да вайны інструктар Мінскага абкома і ЦК КП(б)Б, выкладчык Бел. с.-г. ін-та (у Горках), навук. супрацоўнік АН БССР, у органах пракуратуры. У Айч. вайну да жн. 1943 у БШПР. 5.8.1943 на чале спецгрупы накіраваны ЦК КП(б)Б у тыл ворага. Група Т. і партызаны, вылучаныя брыгадамі Мінскай вобл., з'явіліся базай для стварэння *партызанскага атрада імя Г. К. Жукава* Беластоцкай вобл. З 21.11.1943 да 23. 5.1944 сакратар *Аўгустоўскага падпольнага міжрайкома КП(б)Б.* Пасля вайны ў органах пракуратуры БССР, выкладчык у ВНУ Мінска.

**ТРА́ЯН** Надзея Віктараўна (н. 24.10. 1921, г. Верхнядзвінск), удзельніца партыз. руху ў Мінскай вобл., Герой Сав. Саюза (1943). Канд. мед. навук (1962). Чл. КПСС з 1946. Скончыла 1-ы Маскоўскі мед. ін-т (1947). У Айч. вайну на падп. рабоце ў Смалявічах. З яе ўдзелам створана падп. камсамольская арг-цыя, якая перапраўляла людзей у партызаны, збірала звесткі пра ворага, памагала сем'ям партызан. З ліп. 1942 разведчыца партыз. брыгады «Дзядзькі Колі». Удзельніца падрыхтоўкі знішчэння ката бел. на-

рода ген. камісара Беларусі гаўляйтэра В. Кубэ. Пасля вайны на грамадскай рабоце, выкладчык ВНУ, прарэктар 1-га Маскоўскага мед. ін-та. Чл. прэзідыума Усесаюзнага савета ветэранаў вайны і працы, старшыня выканкома Саюза таварыстваў Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца СССР.

**«ТРОХВУГО́ЛЬНІК»** («Dreieck»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партызан і мясцовага насельніцтва на Пд ад чыгункі Брэст — Кобрын (Брэсцкі, Кобрынскі, Маларыцкі, Жабінкаўскі р-ны) у вер.— кастр. 1942; састаўная частка сумесных планаў начальнікаў паліцыі бяспекі і СД генеральных камісарыятаў Валыні і Падоліі, Беларусі і акругі Беласток для «ўціхамірвання» зах. і паўд.-зах. раёнаў на тэр. Гродзенскай, Баранавіцкай, Брэсцкай і Пінскай абл. летам і восенню 1942. Праводзілася сіламі 3-га батальёна 15-га ням. паліцэйскага палка, 3 узводаў (жандарскага, бронеаўтамабіляў, процітанк. гармат), 2 паліцэйскіх палкоў, спец. роты «Нюрнберг». У канцы жн. 1942 пасля карных аперацый у тыле групы армій «Поўнач» на тэр. Ленінградскай і Пскоўскай абл. 3-і паліцэйскі батальён (да ліп. 1942—310-ы) прыбыў у Брэст і ўдзельнічаў у карнай аперацыі «Міхель». 5 вер. ён пачаў аперацыю «Т.». Камандны пункт батальёна знаходзіўся ў Кобрыне. 9-я, 10-я, 11-я роты занялі в. Радваничы Вялікія, Падлессе-Камянецкае (Брэсцкі р-н), Азяты, Старое Сяло (Жабінкаўскі р-н), Вялікарыта, Чарняны (Маларыцкі р-н), Навасёлкі (Дзівінскі р-н), Жабінка, дзе бясчынствавалі 17 дзён. 23 вер. акружылі в. Барысаўка Дзівінскага р-на, Боркі і Забалоцце Маларыцкага р-на.







У 4 гадз раніцы карнікі 10-й роты сагналі ўсё насельніцтва в. Боркі і расстралялі 705 чал., у т. л. 203 мужчын, 372 жанчыны і 130 дзяцей, захапілі 45 коней, 315 галоў буйной рагатай жывёлы, 450 свіней, 300 авечак і інш. і падпалілі вёску. Карнікі 11-й роты ў в. Забалоцце расстралялі 289 чал., спалілі 120 двароў, захапілі 70 коней, 700 галоў буйной рагатай жывёлы, 400 свіней, 400 авечак, 150 с.-г. машын, 800 ц збожжа. У в. Барысаўка карнікі 9-й роты расстралялі 206 чал., спалілі 225 двароў, захапілі 33 кані, 455 галоў буйной рагатай жывёлы, 258 свіней, 525 авечак, 399 мяхоў збожжа. У в. Ляплёўка (Брэсцкі р-н) гітлераўцы расстралялі 54 дзіцяці і выхавацельніцу Дамачоўскага дзіцячага дома, спалілі в. Каменка (загубілі 152 чал.), Рэчыца (64 чал.) Кобрынскага р-на, Баравая (96 чал.), *Зялёная Буда* Маларыцкага р-на і інш. Усяго з 6 вер. да 24.11.1942 карнікі 3-га батальёна загубілі ў раёне Брэста, Кобрына, Маларыты, Пінска 44 837 сав. грамадзян.

**ТРУХА́НАЎ** Пётр Сцяпанавіч (н. 16.6. 1910, Рыга), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1953. Беларус. З 1943 на 2-м Бел. і інш. франтах. Камандзір кулямётнага разліку ст. сяржант Т. вызначыўся пры вызваленні Магілёўскай вобл. 27.6.1944 на надручных сродках з кулямётам пераправіўся цераз Дняпро і прыкрываў пераправу роты. На плацдарме агнём з кулямёта падтрымліваў атаку сав. воінаў. Двойчы паранены, заглушыў звязкай гранат агонь варожага дзота, што садзейнічала поспеху наступлення. Да 1965 працаваў на чыгунцы. Ганаровы чыгуначнік Міністэрства шляхоў зносін СССР.

**ТРЫНА́ЦЦАТАЯ А́РМІЯ**. Упраўленне арміі сфарміравана ў маі — чэрв. 1941 у Зах. Асобай ваен. акрузе. У пач. вайны яно аб'ядноўвала войскі Зах. фронту, якія знаходзіліся ў раёне Мінска: 21-ы стралк. корпус, 50-ю



Н. В. Траян.



П. С. Труханаў.

стралк. дывізію, 8-ю арт. брыгаду процітанкавай абароны і шэраг асобных часцей. У канцы чэрв. армія, карыстаючыся збудаваннямі Мінскага УРа, вяла цяжкія абарончыя баі супраць злучэнняў 3-й танк. групы ням.-фаш. войск. Пад ударамі намнога большых сіл ворага адышла за р. Бярэзіна ў раён на Пд ад Барысава, а потым за р. Дняпро, дзе замацавалася

на рубяжы Конысь — Новы Быхаў. З 10.7.1941 удзельнічала ў *Смаленскай бітве* 1941. З 24.7.1941 у складзе Цэнтр., з 15.8.1941— Бранскага франтоў вяла абарончыя баі на рэках Сож, Судасць і Дзясна. З 11.11.1941 у складзе Паўд.-Зах. фронту вяла баі на варонежскім напрамку. З 24.12.1941 у складзе Бранскага фронту ўдзельнічала ў агульным наступленні Чырв. Арміі. З 12.3.1942 у складзе Цэнтр. фронту. Удзельнічала ў *Курскай бітве 1943* і Арлоўскай аперацыі. З ліст. 1943 у складзе 1-га Укр. фронту вызваляла Украіну і Польшчу, выйшла на р. Одэр, удзельнічала ў Берлінскай і Пражскай аперацыях. Баен. дзеянні закончыла на З ад Прагі. За мужнасць, гераізм і ваен. майстэрства дзесяткі тысяч воінаў арміі ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР, больш як 400 з іх прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Многія злучэнні і часці арміі ўзнаг. ордэнамі і ўдастоены ганаровых найменняў.

Камандуючыя: ген.-лейт. П. М. *Філатаў* (чэрв.— ліп. 1941), ген.-лейт. Ф. М. Рэмезаў (ліп. 1941), ген.-лейт. В. П. *Герасіменка* (ліп. 1941), ген.-маёр К. Дз. *Голубеў* (ліп.— жн. 1941), ген.-маёр А. М. Гараднянскі (жн. 1941— студз. 1942), ген.-маёр, з 14.2.1943 ген.-лейт., з 26.8.1944 ген.-палк. М. П. *Пухаў* (студз. 1942 — да канца вайны). *М. І. Камінскі.*

**«ТРЫНА́ЦЦАЦЬ»,** асобае партызанскае злучэнне «Трынаццаць». Дзейнічала на акупіраванай тэр. Бялыніцкага, Бярэзінскага, Шклоўскага, Крупскага р-наў. Створана 1.6.1944 паводле ўказання БШПР на базе *партызанскага палка «Трынаццаць»*. Камандзіры С. У. *Грышын*, С. В. Пахомаў (в. а.), камісар І. А. Стралкоў, нач. штаба С. П. Скварцоў. 29—30.6.1944 злучэнне ў складзе 1-й, 3-й, 5-й партыз. брыгад, 11-га, 12-га, 13-га асобных партыз. атрадаў (гл. адпаведныя артыкулы), злучылася з Чырв. Арміяй. У 1976 у в. Эсьмоны Бялыніцкага р-на ў гонар злучэння ўстаноўлена мемар. дошка.

**ТРЫСЦЕНЬ,** вёска на тэр. Лагойскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на У ад в. Гаравец Зарэцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жылі 62 чал. 5.5.1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 35 жыхароў, у т. л. 12 дзяцей, вёску (14 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. На месцы вёскі пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь*.

**ТРЫ́ЦЦАЦЬ ДЗЕВЯ́ТАЯ А́РМІЯ.** Сфарміравана ў ліст. 1941 у Архангельскай ваен. акрузе. З снеж. 1941 у складзе Калінінскага фронту ўдзельнічала ў Калінінскай і Ржэўска-Вяземскай аперацыях. У лют.— чэрв. 1942 вяла цяжкія баі ў паўакружэнні на ПнЗ ад Вязьмы, у ліп. 1942 пасля жорсткіх баёў у акружэнні часткова выйшла з яго і расфарміравана. У жн. 1942 зноў сфарміравана на Калінінскім фронце ў складзе 5 стралк. дывізій, 1 стралк. брыгады і шэрагу танк., арт. і інш. злучэнняў і часцей. Удзельнічала ў Ржэўска-Вяземскай і Духаўшчынска-Дзямідаўскай аперацыях 1943. З 20.10.1943 у складзе 1-га Прыбалт., з 20.1.1944— Зах., з 24.4.1944 – 3-га Бел. франтоў. У ліст. 1943 — сак. 1944 армія ўдзельнічала ў шэрагу наступальных аперацый на віцебскім напрамку. Летам 1944 у час *Беларускай аперацыі 1944* удзельнічала ў *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944*. Яе войскі ва ўзаемадзеянні з 5-й арміяй прарвалі абарону праціўніка на багушэўскім напрамку і сумесна са злучэннямі 43-й арміі ўдзельнічалі ў акружэнні і разгроме віцебскай групоўкі праціўніка. У гэтай аперацыі асабліва вызначыліся 164-я і 251-я стралк. дывізіі, 735-ы самаходны арт. полк, 139-я армейская пушачная арт. брыгада, 610-ы знішчальны процітанк. арт. і 155-ы армейскі мінамётны палкі, якім былі нададзены ганаровыя найменні «Віцебскіх». Удзельнічала ў Каўнаскай і Мемельскай аперацыях. У 1945 вяла баявыя дзеянні ва Усх. Прусіі, удзельнічала ў Інстэрбургска-Кёнігсбергскай і Кёнігсбергскай аперацыях і завяршыла баявыя дзеянні ў Земландскай аперацыі. Пасля разгрому фаш. Германіі армія ў складзе Забайкальскага фронту ўдзельнічала ў 1945 у разгроме японскай Квантунскай арміі. У гады вайны за мужнасць, гераізм і ваен. майстэрства дзесяткі тысяч воінаў 39-й арміі ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР, 49 з іх прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Многія яе злучэнні і часці ўзнаг. ордэнамі і ўдастоены ганаровых найменняў.

Камандуючыя: ген.-лейт. І. А. Багданаў (ліст.— снеж. 1941), ген.-лейт. І. І. Масленнікаў (снеж. 1941 – чэрв. 1942), ген.-маёр, з 30.1.1943 ген.-лейт. А. І. Зыгін (жн. 1942— вер. 1943), ген.-лейт. М. Э. Берзарын (вер. 1943 — май 1944), ген.-лейт., з 5.5.1945 ген.-палк. І. І. *Людніказ* (май 1944— да канца вайны).
*М. І. Камінскі.*

**ТРЫ́ЦЦАЦЬ ПЕ́РШАЯ А́РМІЯ.** Сфарміравана ў ліп. 1941 у Маскоўскай ваен. акрузе ў складзе 4 стралк. дывізій і шэрагу арт. і інш. часцей. Уваходзіла ў склад Рэзервовага, з кастр. 1941 Зах., Калінінскага франтоў. Вяла цяжкія абарончыя баі, але пад ударамі намнога большых сіл праціўніка адышла да Ржэва. Удзельнічала ў Калінінскай абарончай аперацыі 1941 і Калінінскай аперацыі 1941—42. Ва ўзаемадзеянні з 29-й арміяй нанесла паражэнне асн. сілам 9-й ням.-фаш. арміі, вызваліла г. Калінін і прыняла ўдзел у Ржэўска-Вяземскай аперацыі 1942. З ліп. 1942 у складзе Зах. фронту, удзельнічала ў аперацыях Ржэўска-Сычоўскай, у 1943 у Ржэўска-Вяземскай, Смаленскай, вызваленні гарадоў Ярцава, Смаленск і выйшла на правы бераг Дняпра за 60 км на ПнУ ад Оршы. Летам 1944 армія ў складзе 3-га Бел. фронту ўдзельнічала ў разгроме ням.-фаш. войск на Беларусі (гл. *Беларуская аперацыя 1944*). У *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944* пасля прарыву глыбока эшаланіраванай абароны ворага часці і злучэнні арміі ва ўзаемадзеянні з 11-й гвардз. арміяй авалодалі г. Орша (27 чэрв.). У баях за горад вызначыліся 172-я, 192-я, 220-я і 352-я стралк. дывізіі, 213-я асобная танк. брыгада, 926-ы і 1455-ы самаходныя арт. палкі, 43-я знішчальная процітанкавая арт. брыгада, 83-і гвардз. гаубічны арт. полк і 31-я інж.-сапёрная брыгада, якім нададзены ганаровыя найменні «Аршанскіх». У канцы чэрв. 1944 армія выйшла на р. Бярэзіна ў раёне г. Барысаў. У ходзе *Мінскай аперацыі 1944* удзельнічала ў акружэнні і разгроме буйной групоўкі праціўніка, вызваленні Барысава і Мінска. Пры вызваленні Барысава вызначыліся 62-я і 174-я стралк. дывізіі і 66-я зенітная арт. дывізія, якім былі нададзены ганаровыя найменні «Барысаўскіх». У час *Вільнюскай аперацыі 1944* войскі арміі вызвалілі г. Друскенікі (Друскінінкай, 14 ліп.), у ходзе *Беластоцкай аперацыі 1944* ва ўзаемадзеянні з 50-й арміяй і 3-м гвардз. кав. корпусам — г. Гродна (16 ліп.). У кастр. 1944 войскі арміі ўдзельнічалі ў наступальнай аперацыі 3-га Бел. фронту, у ходзе якой уступілі на тэр. фаш. Германіі, дзе ў 1945 удзельнічалі ва Усх.-Прускай аперацыі. У баях на Пд ад Кёнігсберга вызначыўся камандзір танк. роты лейт. І. М. Ладушкін з 2-й гвардз. танк. брыгады, якому пасмяротна прысвоена званне Героя Сав. Саюза (пасля вайны г. Людвігсорт у Калінінградскай вобл. перайменаваны ў г. Ладушкін.) У крас. 1945 армія перададзена ў склад 1-га Укр. фронту, дзе яна ўдзельнічала ў Пражскай аперацыі 1945. За мужнасць, гераізм і ваен. майстэрства ў гады вайны дзесяткі тысяч воінаў арміі ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР, 32 з іх прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Многія злучэнні і часці арміі ўзнаг. ордэнамі, удастоены ганаровых найменняў.

Камандуючыя: ген.-маёр К. І. Ракуцін (ліп. 1941), ген.-маёр В. М. Далматаў (ліп.— кастр. 1941), ген.-маёр В. А. *Юшкевіч* (кастр. 1941— сак. 1942), ген.-маёр У. І. Ваструхоў (сак. – крас. 1942), ген.-маёр В. С. Паленаў (крас. 1942— люты 1943), ген.-маёр, з 9.9.1943 ген.-лейт. У. А. *Глуздоўскі* (люты 1943— май 1944), ген.-лейт., з 15.7.1944 ген.-палк. В. В. *Глаголеў* (май — снеж. 1944), ген.-лейт. П. Р. Шафранаў (снеж. 1944— да канца вайны). *М. І. Камінскі.*

**ТРЫ́ЦЦАЦЬ ТРЭ́ЦЯЯ А́РМІЯ.** Сфарміравана ў ліп. 1941 у Маскоўскай ваен. акрузе ў складзе 5 дывізій нар. апалчэння і шэрагу арт. і інш. часцей. Знаходзілася ў складзе Рэзервовага, з 13.10.1941— Зах. франтоў, удзельнічала ў Вяземскай і Мажайска-Малаяраславецкай аперацыях. Да 24

кастр. спыніла праціўніка на р. Нара. З снеж. 1941 да крас. 1942 удзельнічала ў контрнаступленні пад Масквой і агульным наступленні Чырв. Арміі на зах. напрамку, вызваліла гарады Нара-Фамінск, Бароўск і Вярэя. Ва ўзаемадзеянні з 1-й гвардз. кав. корпусам спрабавала ўзяць Вязьму, але была адрэзана ад асноўных сіл Зах. фронту і да чэрв. 1942 дзейнічала ў тыле праціўніка. У 1943 удзельнічала ў Ржэўска-Вяземскай аперацыі. Летам і восенню 1943 злучэнні арміі ўдзельнічалі ў *Смаленскай аперацыі 1943,* да канца якой выйшлі на рубеж на У ад в. Леніна — на Пн ад пас. Дрыбін Горацкага р-на. У кастр. 1943 у баях пад Леніна ў складзе 33-й арміі прыняла баявое хрышчэнне 1-я Польская пях. дывізія імя Т. Касцюшкі. У канцы 1943 — пач. 1944 армія ўдзельнічала ў наступальных аперацыях Зах. фронту на багушэўскім і віцебскім напрамках, у крас. 1944 перагрупавана на аршанскі напрамак і да канца чэрв. абараняла рубеж Баява — Дрыбін. У складзе 2-га Бел., з 5.7.1944 3-га Бел. франтоў удзельнічала ў *Беларускай аперацыі 1944.* У перыяд *Магілёўскай аперацыі 1944* яе войскі вызвалілі г. Горкі (26.6.1944, 70-я стралк дывізія), паспяхова фарсіравалі рэкі Проня, Бася, Дняпро, вызвалілі Шклоў (27.6.1944) і да канца аперацыі выйшлі ў міжрэчча Друці і Дняпра на З ад Шклова. У баях за Дняпро і Шклоў найбольш вызначылася 70-я стралк. дывізія, якая была ўдастоена ганаровага наймення «Верхнедняпроўскай» (10.7.1944). У *Мінскай аперацыі 1944* армія ва ўзаемадзеянні з часткай сіл 49-й і 50-й армій удзельнічала ў знішчэнні акружанай групоўкі праціўніка на У ад Мінска. У канцы ліп.— жн. удзельнічала ў Каўнаскай аперацыі 1944. З 18.10.1944 у складзе 1-га Бел. фронту. У 1945 удзельнічала ў Варшаўска-Познанскай і Берлінскай аперацыях. Ваен. дзеянні армія закончыла 6 мая выхадам гал. сіл на р. Эльба на ПнЗ ад г. Дэсаў. За мужнасць, гераізм і ваен. майстэрства дзесяткі тысяч воінаў арміі ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР, 116 з іх прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Многія яе злучэнні і часці ўзнаг. ордэнамі і ўдастоены ганаровых найменняў.

Камандуючыя: камбрыг Дз. П. Анупрыенка (ліп.— кастр. 1941), ген.-маёр М. Р. *Яфрэмаў* (кастр. 1941 — крас. 1942), ген. арміі К. А. Мерацкоў (май — чэрв. 1942), ген.-лейт. М. С. Хозін (чэрв.— кастр. 1942), ген.-лейт., з 9.9. 1943 ген.-палк. В. М. Гардоў (кастр. 1942 — сак. 1944), ген.-палк. І. Я. *Пятроў* (сак.— крас. 1944), ген.-лейт. *В. Дз. Кручонкін* (крас.— чэрв. 1944), ген.-лейт. С. І. Марозаў (чэрв.— вер. 1944), ген.-палк. В. Дз. *Цвятаеў* (кастр. 1944 — да канца вайны). *М. І. Камінскі.*

**ТРЭЦЯЯ АРМІЯ.** Сфарміравана ў 1939 на базе Віцебскай армейскай групы войск Бел. асобай ваен. акругі. У пач. вайны армія (4-ы стралк. і 11-ы механіз. карпусы, 68-ы УР і шэраг арт. і інш. злучэнняў і часцей) у складзе Зах. фронту вяла напружаныя абарончыя баі ў раёнах Гродна, Ліды, Навагрудка. У канцы чэрв. акружана намнога большымі сіламі ворага. Да 8.7.1941 яе злучэнні і часці ваявалі ў тыле ворага і скоўвалі значныя яго сілы. Пасля выхаду з акружэння большай часткі войск армія даўкамплектавана, вяла абарончыя баі ў складзе Цэнтр., Бранскага і Паўд.-Зах. франтоў. Пасля контрнаступлення пад Масквой у складзе Бранскага фронту перайшла да абароны на У ад Арла. У ліп.— жн. 1943 удзельнічала ў Арлоўскай аперацыі, у вер.— кастр. 1943 — у *Бранскай аперацыі 1943,* пры завяршэнні якой выйшла на левы бераг р. Сож у раёне г. Прапойск (Слаўгарад). У складзе Цэнтр., з 20.10.1943 Бел. франтоў удзельнічала ў *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943.* Зімой 1944 армія ў складзе 1-га Бел. фронту правяла *Рагачоўска-Жлобінскую аперацыю 1944,* у выніку якой быў вызвалены г. Рагачоў (24 лютага). У баях за горад вызначыліся 120-я гвардз., 169-я і 269-я стралк. дывізіі, 36-ы асобны танк. і 286-ы армейскі мінамётны палкі, якім былі нададзены ганаровыя найменні «Рагачоўскіх». У перыяд *Беларускай аперацыі 1944* воіны арміі ў складзе 1-га Бел. фронту ўдзельнічалі ў *Бабруйскай аперацыі 1944,* у *Мінскай аперацыі 1944,* у складзе 2-га Бел. фронту — у *Беластоцкай аперацыі 1944,* прайшлі з баямі больш за 500 км, вызвалілі гарады Навагрудак (8 ліп. ва ўзаемадзеянні з 50-й арміяй), Ваўкавыск (14 ліп.) і Беласток (27 ліп.). У баях за Бабруйск вызначыліся 108-я і 250-я стралк. дывізіі, 9-ы танк. корпус, 95-я і 108-я танк. брыгады, 8-я мотастралк. брыгада і 313-ы гвардз. мінамётны полк рэактыўнай артылерыі, якім былі нададзены ганаровыя найменні «Бабруйскіх». У баях за Ваўкавыск вызначыліся 1888-ы самаходны арт. полк, 44-я асобная знішчальная процітанк. арт. брыгада, 1311-ы армейскі знішчальны процітанкавы арт. полк, 475-ы армейскі мінамётны полк, 28-я зенітная арт. дывізія і 10-я інж.-сапёрная брыгада, ім нададзены ганаровыя найменні «Ваўкавыскіх». У баях за Беласток вызначыліся 343-я стралк. дывізія, 40-ы інж.-танк. і 510-ы асобны агнямётны танк. палкі, 1812-ы і 1801-ы самаходны арт. палкі, 1284-ы армейскі зенітны арт. полк, якім нададзены ганаровыя найменні «Беластоцкіх». У 1945 армія ўдзельнічала ў Млаўска-Эльбінгскай аперацыі, у складзе 3-га Бел. фронту — у ліквідацыі ўсх.-прускай групоўкі праціўніка на ПдЗ ад Кёнігсберга, у складзе 1-га Бел. фронту — у Берлінскай аперацыі. Баявыя дзеянні армія закончыла 8.5.1945 на р. Эльба. За баявыя заслугі многім злучэнням і часцям арміі нададзены найменні гвардзейскіх, узнаг. ордэнамі і ўдастоены ганаровых найменняў. За мужнасць, гераізм і ваен. майстэрства ў баях дзесяткі тысяч яе воінаў узнаг. ордэнамі і медалямі СССР, 83 з іх прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

Камандуючыя: ген.-лейт. В. І. *Кузняцоў* (чэрв.— жн. 1941), ген.-маёр Я. Р. *Крэйзер* (жн.— снеж. 1941), ген.-лейт. П. С. Пшэнікаў (снеж. 1941), ген.-лейт. П. І. *Батаў* (студз.— лют. 1942), ген.-маёр П. Ф. Жмачанка (лют.— май 1942), ген.-лейт. П. П. *Корзун* (май 1942 — чэрв. 1943), ген.-лейт., з 29.6.1944 ген.-палк. А. В. *Гарбатаў* (чэрв. 1943 — да канца вайны). *М. І. Камінскі.*

**ТРЭЦЯЯ ПАВЕТРАНАЯ АРМІЯ.** Сфарміравана ў маі 1942 на базе ВПС Калінінскага фронту ў складзе 6 авіядывізій. Уваходзіла ў склад Калінінскага, з 20.10.1943 1-га Прыбалт. франтоў. Баявыя дзеянні пачала ў ліп. 1942 у раёне г. Белы, удзельнічала ў Ржэўска-Сычаўскай, Велікалуцкай, Смаленскай і Невельскай аперацыях, у ліквідацыі Дзямянскага плацдарма праціўніка, падтрымлівала дзеянні войск фронту ў баях за вызваленне паўн.-ўсх. раёнаў Беларусі, удзельнічала ў *Гарадоцкай аперацыі 1943.* Адначасова армія выконвала задачы па забеспячэнню баявых дзеянняў партызан. Толькі ў маі 1944 у партыз. раёны Ушачы — Лепель праведзена 548 самалёта-вылетаў. Летам 1944 у складзе 1-га Прыбалт. фронту армія (3 знішчальныя, 3 штурмавыя і 1 начных бамбардзіроўшчыкаў авіядывізіі, 4 асобныя авіяпалкі і 3 зенітныя арт. палкі) удзельнічала ў *Беларускай аперацыі 1944.* Падтрымлівала войскі фронту ў перыяд *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944, Полацкай аперацыі 1944* і інш. За перыяд з 23 чэрв. да 31 жн. 1944 армія здзейсніла 35 605 самалёта-вылетаў. Удзельнічала ў Прыбалт. і Усх.-Прускай аперацыях, у блакадзе фаш. групоўкі на Курляндскім паўвостраве. Усяго за час вайны лётчыкі арміі зрабілі каля 200 тыс. самалёта-вылетаў, тысячы яе воінаў узнаг. ордэнамі і медалямі СССР, многім прысвоена званне Героя Сав. Саюза, а І. Ф. Паўлаў і А. С. Смірноў удастоены гэтага звання двойчы; 5 авіядывізіям і некальнім авіяпалкам нададзены ганаровыя найменні «Віцебскіх», «Полацкіх» і «Гарадоцкіх».

Камандуючыя: ген.-маёр, з крас. 1943 ген.-лейт. М. М. Громаў (май 1942 — май 1943), ген.-маёр, з вер. 1943 ген.-лейт., з жн. 1944 ген.-палк. М. П. *Папівін* (май 1943 — май 1945). *М. І. Камінскі.*

**ТУБЕЛІС** Уладзімір Іванавіч (28.10. 1911, Віцебск — 17.5.1955), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Вілейскай вобл. Чл. КПСС з 1939. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1951). З 1931 на парт., сав. і гасп. рабоце. З 1942 упаўнаважаны ЦК КП(б)Б у Вілейскай вобл.

З жн. 1943 камісар атрада, у кастр. 1943 — ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады імя М. Ф. Гастэлы*, адначасова ў вер. 1943 — ліп. 1944 сакратар Ашмянскага падп. РК КП(б)Б. З 1944 на парт. і гасп. рабоце ў Маладзечанскай вобл. Дэп. ВС БССР у 1947—51. Яго імем названа вуліца ў г. Ашмяны.

В. А. Тумар. З. М. Тусналобава-Марчанка.



**ТУ́МАР** Віктар Андрэевіч (1919, в. Пеліка Смалявіцкага р-на — 30.5.1944), Герой Сав. Саюза (1944). Працаваў на Смалявіцкім торфазаводзе «Чырвоны сцяг». На фронце з 1941. Удзельнік вызвалення Украіны, Румыніі. Стралок роты аўтаматчыкаў Т. вызначыўся 30.5.1944 у баі пад г. Ясы. У час атакі праціўніка з процітанк. гранатамі кінуўся пад танк і падарваў яго. Пахаваны ў Ясах. Навечна занесены ў спіс 1-й роты мотастралк. палка. Яго імем названа вуліца ў г. Смалявічы. На тэр. торфазавода «Чырвоны сцяг» яму пастаўлены помнік.

**ТУПІ́ЧЫЦЫ,** вёска на тэр. Івацэвіцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 4 км на ПдЗ ад в. Бабровічы Выганашчанскага сельсавета, каля воз. Бабровіцкае. Вядома з 1552. Перад вайной у ёй жылі 143 чал. 15.9.1942, у час карнай аперацыі *«Балотная ліхаманка»*, фашысты загубілі 143 жыхароў, вёску (43 двары) спалілі, маёмасць разрабавалі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1965 недалёка ад б. вёсак Вяда і Тупічыцы ў памяць аб загінуўшых жыхарах пастаўлены абеліск. Вёска ўвекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**ТУ́РАЎ,** гар. пасёлак у Жыткавіцкім р-не, прыстань на р. Прыпяць. За 30 км на ПдЗ ад Жыткавіч. Аўтадарогамі звязаны з Давыд-Гарадком, Жыткавічамі, Лельчыцамі. У 1924—62 цэнтр раёна. 5,5 тыс. жыхароў у 1939. З першых дзён вайны быў створаны Тураўскі знішчальны атрад. Абарончыя баі на тэр. раёна з 6.7.1941 вялі часці 75-й стралк. дывізіі, 18-га пагранатрада, маракі Пінскай ваен. флатыліі. Передавыя атрады праціўніка 15.7.1941 захапілі Т. На базе знішчальнага атрада 23.7.1941 быў створаны *партызанскі атрад Тураўскі.* У навакольных лясах таксама базіраваліся аператыўна-чэкісцкая група Крымава, Столінскі і Давыд-Гарадоцкі партыз. атрады. У ноч на 4.8.1941 чырвонаармейцы пад камандаваннем капітана Даніленкі і партызаны Тураўскага атрада выбілі акупантаў з в. Азяраны і Т. Варожыя падраздзяленні ўварваліся 14.8.1941 у гар. пасёлак, але сумесным ударам чырвонаармейцаў і партызан Т. зноў быў вызвалены. 23.8.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў Т. і раёне знішчылі 1792 савецкіх грамадзян. На тэр. раёна дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б (8.10.1943—31.1.1944) і ЛКСМБ (жн. — ліст. 1941, 1.6.1943—6.2.1944), *Тураўскае камсамольска-маладзёжнае падполле, партызанскі атрад «За Радзіму»*, выдавалася падп. газ. *«Ленинские заветы»*. У ноч на 23.10.1943 партызаны атрада «За Радзіму» разам з атрадам Лельчыцкай партыз. брыгады занялі Т., але раніцай мусілі яго пакінуць. Вызвалены 5.7.1944 войскамі 23-й стралк. дывізіі (палк. І. В. Басцееў) і 1-й брыгады бранякатэраў (капітан 2-га рангу С. М. Ляхько) Дняпроўскай ваен. флатыліі 1-га Бел. фронту ў час *Беларускай аперацыі 1944*. У Т. 2 брацкія магілы сав. воінаў, на якіх пастаўлены помнікі, помнік землякам. *А. М. Лiтвін.*

**ТУ́РАЎСКАЕ КАМСАМО́ЛЬСКА - МАЛАДЗЁЖНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з 31.10.1941 да ліп. 1944 у г. п. Тураў. Кіраўнікі: І. Л. Хілінскі, з ліст. 1941 А. В. Сідараў, з кастр. 1942 А. Р. Багай, С. В. Царык. Падпольшчыкі распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро. 7.11.1941 арганізавалі калектыўнае праслухоўванне радыёперадачы з Масквы. З вясны 1942 падтрымлівалі сувязь з партыз. атрадам Камарова (В. З. *Каржа*), выконвалі заданні партыз. атрада імя Чкалава *партызанскай брыгады «Савецкая Беларусь»* Пінскай вобл. У маі 1942 узарвалі аўтамашыну з фашыстамі, летам 1943— будынак паліцыі і камендатуры ў Тураве. Пад уплывам агітацыі падпольшчыкаў каля 170 жыхароў Турава і 35 чал. з варожых фарміраванняў пайшлі ў партызаны. Напярэдадні вызвалення Турава Чырв. Арміяй падпольшчык П. А. Амяльчышын склаў схему абароны ворага, якую Г. В. Санец перадала партызанам. *А. Б. Рогаў.*

**ТУРНА́ЕЎСКАЕ КАМСАМО́ЛЬСКА-МАЛАДЗЁЖНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала са жн. 1943 да чэрв. 1944 у в. Турная Кобрынскага р-на. Створана па ініцыятыве камуніста І. П. Курапава. Кіраўнікі: У. А. Юхімук (да снеж. 1943), П. П. Казлюк. У канцы 1943 аб'ядноўвала 17 чал. Падпольшчыкі былі звязаны з партыз. атрадам імя І. І. Арлова *партызанскай брыгады імя В. І. Чапаева* і атрадам імя А. В. Суворава *партызанскай брыгады «Савецкая Беларусь»*, здабывалі і перадавалі партызанам разведданыя, зброю, боепрыпасы, адзенне, прадукты. Удзельнічалі ў *«рэйкавай вайне»* на чыгунцы Брэст — Пінск, знішчалі масты на аўтамабільных дарогах Кобрын — Пінск, Кобрын — Івацэвічы, сапсавалі больш за 2 км тэлефоннай сувязі, вялі агітацыю сярод моладзі, распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро. У в. Падбер'е знішчылі групу гітлераўцаў.

У барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі загінулі: М. В. Здановіч, С. І. Здановіч, П. П. Казлюк, М. Ф. Марчук, М. Ф. Сахарук, У. А. Юхімук. У памяць аб падпольшчыках у в. Турная ў 1975 пастаўлены помнік. *Н. К. Крыгіна.*

**ТУСНАЛО́БАВА-МА́РЧАНКА** (дзяв. М а р о з а в а) Зінаіда Міхайлаўна (23.11. 1920, б. хутар Шаўцова, Расонскі р-н — 20.5.1980), Герой Сав. Саюза (1957). Чл. КПСС з 1942. На фронце з крас. 1942. Старшына медслужбы, за 8 месяцаў вынесла з поля бою 128 параненых. У лют. 1943 у баі за ст. Гаршэчнае Курскай вобл. цяжка паранена, абмарожана, ёй ампутавалі рукі і ногі. Аднак яна не спыніла барацьбы з ворагам: выступала перад рабочымі, па радыё, у газетах, заклікала граміць ням.-фаш. захопнікаў. На фронце з'явіліся самалёты і танкі, гарматы і мінамёты з надпісамі «За Зіну Тусналобаву!». Узнаг. медалём Флорэнс Найтынгейл — узнагародай міжнар. «Чырвонага Крыжа». У Полацку яе імем названа вуліца, адкрыта кватэра-музей Героя Сав. Саюза З. М. Тусналобавай-Марчанка (1987), перад ёй устаноўлены помнік. Ганаровы грамадзянін г. Полацк.

**ТУ́ФТАЎ** Іван Мікітавіч (24.12.1912, в. Гарадзінец Лепельскага р-на — 21.7.1974), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1944. На фронце з 1941. Кулямётчык Т. вызначыўся ў баях за вызваленне Украіны. У сак. 1944 у час пераправы сав. войск цераз Паўд. Буг агнём з кулямёта знішчыў 2 кулямётныя кропкі ворага, на самаробным плыце пераправіў кулямёт, у баях за плацдарм знішчыў больш за 20 гітлераўцаў. 22.3.1944 у раёне Магілёва-Падольскага з кулямётам фарсіраваў Днестр і агнём падтрымліваў наступленне сав. войск.

**ТУ́ХАЦІНА,** вёска на тэр. Ушацкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1,5 км на Пн ад в. Глінішча Вялікадолецкага сельсавета. Перад вайной у ёй жылі 84 чал. 12.5.1944, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 68 жыхароў, у т. л. 23 дзяцей, вёску (25 двароў) спалілі, маёмасць разрабавалі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1964 на месцы спаленай вёскі пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ТХАРНІ́ЦА,** вёска на тэр. Лагойскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупан-

тамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на З ад в. Панышэўшчына Астрошыцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жылі 43 чал. 30.5.1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 43 жыхароў, у т. л. 14 дзяцей, вёску (18 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. На месцы вёскі пастаўлена стэла з памятным надпісам і спісам загінуўшых. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь*.

**ТЫШЭВІЧ** Уладзімір Аляксандравіч (29.5.1923, Віцебск — 10.12.1980), Герой Сав. Саюза (1946). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Ваен.-паветр. акадэмію (1951). На фронце з ліп. 1943. Удзельнік Курскай бітвы, вызвалення Украіны, Беларусі, Польшчы. Лётчык-штурмавік ст. лейтэнант Т. зрабіў 144 баявыя вылеты, знішчыў 5 самалётаў, 3 паравозы, 10 танкаў, больш за 50 аўтамашын, 6 арт. батарэй, 8 мінамётаў, 9 зенітных агнявых кропак, 14 зенітна-арт. гармат, 4 бліндажы, 9 ваен. складоў, 27 чыг. вагонаў, шмат жывой сілы праціўніка. На акупіраваную ворагам тэр. скінуў 120 тыс. лістовак. Пасля вайны ў Сав. Арміі, палкоўнік.

**ТЭА́ТР.** Дзейнасць тэатраў Беларусі ў гады Айч. вайны была падпарадкавана гал. задачы, якая стаяла перад усім сав. мастацтвам,— садзейнічаць мабілізацыі патрыятычных пачуццяў народа на барацьбу з ням.-фаш. захопнікамі. Вядучыя бел. тэатры, эвакуіраваныя ў тыл краіны (БДТ-1 у Томск, БДТ-2 ва Уральск, з 1943 у Арэхава-Зуева), працягвалі актыўнае творчае жыццё: паказвалі раней пастаўленыя спектаклі і выпускалі новыя, арганізоўвалі *акцёрскія франтавыя брыгады*, якія накіроўвалі ў дзеючую армію. Праводзілі вял. шэфскую работу, дапамагалі чырвонаармейскай і гарадской маст. самадзейнасці, выязджалі са спектаклямі і канцэртамі ў сельскія раёны ў час пасяўных і ўборачных, у т. л. БДТ-1 у 1943 па т. зв. Нарымскім краі (Пн Томскай вобл.). Сабраныя ад спектакляў сродкі перадавалі ў фонд абароны краіны: БДТ-1 у 1942 каля 38 тыс. рублёў, БДТ-2 за гады вайны — 104 тыс. руб. На асабістыя сродкі калектыву БДТ-1 быў набыты баявы самалёт.

Цэнтральнае месца ў рэпертуары тэатраў ваен. гадоў займалі патрыятычныя п'есы, якія ўвасаблялі на сцэне гераічныя тэмы і характары, у якіх гучала вера народа ў перамогу, гатоўнасць да подзвігу. Спачатку ставіліся п'есы, непасрэдна не звязаныя з падзеямі вайны, але яны сваімі ідэямі знаходзілі водгук у гледачоў. Сугучнымі часу, актуальнымі ўспрымаліся гледачамі тых гадоў спектаклі «Партызаны» К. Крапівы ў БДТ-1 (прысвечаны грамадз. вайне на Беларусі) і асабліва «Хлопец з нашага горада» К. Сіманава (1941; рэж. К. Саннікаў, у ролі Сяргея Луконіна Б. Кудраўцаў у БДТ-1; рэж. Н. Лойтар і Ц. Сяргейчык, арт П. Малчанаў у гал. ролі ў БДТ-2). У канцы 1941 — пач. 1942 пастаўлены першыя п'есы, прысвечаныя падзеям Айч. вайны: у БДТ-2 «Сям'я Міхайлавых» У. Салаўёва (1941) і «Партызаны ў стэпах Украіны» А. Карнейчука (1942, рэж. Лойтар), у БДТ-1 «Душа Масквы» Л. Нікуліна (1942, рэж. Саннікаў), у абодвух тэатрах «Крылатае племя» А. Первенцава (1941, рэж. Лойтар у БДТ-2; 1942, рэж. Л. Рахленка ў БДТ-1). І хоць гэтыя п'есы шмат у чым былі ілюстрацыйнымі і схематычнымі, пастаноўкі хвалявалі гледачоў. Этапнымі для бел. тэатраў сталі пастаноўкі лепшых сав. п'ес пра Айч. вайну: «Фронт» Карнейчука (1942; рэж. Рахленка ў БДТ-1, Лойтар у БДТ-2), «Рускія людзі» Сіманава (1942, рэж. Лойтар у БДТ-2; 1943, рэж. Рахленка ў БДТ-1), «Нашэсце» Л. Лявонава (1943, рэж. М. Міцкевіч у БДТ-2). Тэма сав. патрыятызму як гал. умовы фарміравання гераічнага характару вызначала пафас гэтых спектакляў. У «Фронце» з вял. мастацкай сілай было паказана маральнае падзенне камандуючага фронтам Івана Горлава (артыст У. Уладамірскі), які жыве мінулымі заслугамі, безнадзейна адстаў ад патрабаванняў часу, і сіла таленту, бескампраміснасць у барацьбе з «горлаўшчынай» военачальніка новага тыпу маладога генерала Огнева (артыст Б. Платонаў), духоўная роднасць сав. салдат — людзей розных нацыянальнасцей. Арганічны сплаў высокай патэтыкі і глыбокай жыццёвай верагоднасці дасягаўся ў спектаклі БДТ-1 «Рускія людзі». Створанымі ў ім вобразамі простых сав. людзей (Сафонаў — артыст І. Шаціла, Валя — М. Шашалевіч, Глоба — П. Пекур, Марфа Касьянаўна — Л. Ржэцкая, Марыя Мікалаеўна — В. Галіна і інш.), паказам вытокаў іх мужнасці і самаадданасці тэатр сцвярджаў тыповасць гераічнага характару сав. чалавека. Тэма адзінства і згуртаванасці народа, духоўнай перавагі сав. чалавека над фашыстамі прагучала ў спектаклі «Нашэсце». Выразны мастацкі вобраз Фёдара Таланава стварыў у ім Малчанаў, выявіўшы ачышчальнае і ўзвышальнае ўздзеянне патрыятычных пачуццяў на асобу сав. чалавека. У 1943—44 паявіліся першыя бел. п'есы пра Айч. вайну. Найбольш значнай мастацкай з'явай стала драма К. Крапівы «Проба агнём» (1943, рэж. Лойтар у БДТ-2). Пастаўлены таксама: «Палешукі» (рэж. Е. Міровіч) і «Таварыш Андрэй» (рэж. Л. Літвінаў) Я. Рамановіча (1944, у БДТ-1), «Заложнікі» А. Кучара (1944, рэж. Міцкевіч у БДТ-2, у ролі Бацькі Мінага М. Звездачотаў; 1945, рэж. Рахленка, артыст Уладамірскі ў БДТ-1), прысвечаныя партыз. барацьбе на Беларусі.

Асаблівае месца ў творчасці бел. тэатраў у гады вайны займалі жыццярадасныя, маляўнічыя нар. спектаклі, яны ўспрымаліся як сведчанне багатых духоўных сіл бел. народа. Гэта «Несцерка» В. Вольскага ў БДТ-2 (1941, рэж. Лойтар, Дзярж. прэмія СССР 1946, спектакль прайшоў 100 разоў ва Уральску) і «Паўлінка» Я. Купалы ў БДТ-1 (1944, рэж. Літвінаў). Разам з гераіка-патрыятычнымі творамі сілай уздзеяння, гуманізмам, верай у чалавека вызначаліся пастаноўкі твораў рус. і зарубежнай класічнай драматургіі: п'есы М. Горкага «Ягор Булычоў і іншыя» (1942, рэж. Лойтар у БДТ-2) і А. Астроўскага «Позняе каханне» (1944; рэж. Літвінаў у БДТ-1, Лойтар у БДТ-2), Лопэ дэ Вэгі «Сабака на сене» (1943, рэж. Літвінаў у БДТ-1) і К. Гальдоні «Забаўны выпадак» (1942, рэж. Н. Аноева ў БДТ-2). У канцы 1944 БДТ-1 і БДТ-2 (цяпер тэатры імя Я. Купалы і Я. Коласа) вярнуліся з эвакуацыі. Важнае месца ў іх рэпертуары займалі спектаклі, якія ўвасаблялі падзеі Айч. вайны. Тэма вайны засталася вядучай у тэатральным мастацтве Беларусі і пасля вайны ў 1940—80-я г. З распрацоўкай яе звязаны многія значныя поспехі бел. драматургаў, рэжысёраў і акцёраў, творчасць нанава створаных ці аднавіўшых сваю дзейнасць тэатраў Беларусі. Тэма Айч. вайны па-мастацку асэнсоўвалася перш за ўсё на матэрыяле партыз. барацьбы і падполля на часова акупіраванай тэр. Беларусі; у аснову большасці твораў пакладзены дакументальныя факты, лёс рэальных людзей.



І. М. Туфтаў. У. А. Тышэвіч.

Спектаклі 1940 — пач. 1950-х г. вызначаліся гераіка-рамантычнай накіраванасцю. Подзвігі ў іх былі паказаны ярка, рамантычна і разам з тым жыццёва праўдзіва, што давала магчымасць стварыць на сцэне сапраўдную атмасферу вайны з яе трагізмам і адначасова паказаць рамантыку барацьбы ў імя абароны Радзімы, дасягнуўшы высокай ступені мастацкага абагульнення. З'явай бел. тэатральнага мастацтва пасляваен. часу стаў спектакль «Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона ў тэатры імя Я. Купалы (1947, рэж. Саннікаў, Дзярж. прэмія СССР 1948), прызнаны адным

з лепшых пра Айч. вайну ў савецкім тэатры, а ўвасоблены ў ім Б. Платонавым гераічны характар Заслонава зрабіўся надоўга ўзорам сцэнічнага станоўчага героя. Узнёслай усхваляванай атмасферай, палымяным сцвярджэннем гуманізму, яркімі сцэнічнымі вобразамі вылучаўся і спектакль тэатра імя Я. Купалы «Гэта было ў Мінску» А. Кучара (1949, рэж. Літвінаў). Падзеяй у тэатральным жыцці рэспублікі стаў спектакль «Брэсцкая крэпасць» К. Губарэвіча ў Брэсцкім абл. драматычным тэатры імя ЛКСМБ (1953, рэж. А. Міронскі, прэмія Ленінскага камсамола 1967). Рамантычна ўзняты, яркі, з напружаным унутраным дзеяннем, скульптурна выразнымі сцэнічнымі партрэтамі сав. людзей, гераічных абаронцаў крэпасці, ён стаў праграмным для тэатра (паказаны больш за 900 разоў, у 1972 адноўлены з новымі выканаўцамі). У 1968 пастаўлены новы варыянт п'есы пад наз. «Людзі і камяні» (рэж. Г. Волкаў).

Поруч з т. зв. дакументальным кірункам пашыраны ў тэатры і мастацкі. Даследуюцца паводзіны чалавека ва ўмовах акупацыі, аналізуецца прырода гераізму і здрадніцтва, псіхалогія нар. подзвігу. Гэта выявілася перш за ўсё ў спектаклях «З народам» (1948) і «Людзі і д'яблы» (1958, рэж. Саннікаў) К. Крапівы ў тэатры імя Я. Купалы (апошні пастаўлены і ў тэатры імя Я. Коласа, 1958, рэж. А. Скібнеўскі), «Барабаншчыца» А. Салынскага (1959, рэж. М. Співак) у Дзярж. рускім драматычным тэатры БССР імя М. Горкага.

З канца 1950-х г. пачалося асваенне тэатрамі ваен. прозы, пераважна беларускай. Інсцэніраваліся творы І. Шамякіна («Глыбокая плынь», 1957, рэж. С. Гурыч у Гомельскім абл. драматычным тэатры; «Гандлярка і паэт», 1980, рэж. М. Гавядзінаў у Магілёўскім абл. драматычным тэатры), А. Адамовіча («Вайна пад стрэхамі», 1967, рэж. Ю. Шчарбакоў у тэатры імя Я. Коласа, найбольш значны спектакль 1960-х г. пра вайну), В. Быкава («Сотнікаў», 1972, рэж. Ю. Собалеў у Магілёўскім абл. драматычным тэатры), І. Чыгрынава («Плач перапёлкі», 1980, рэж. В. Раеўскі ў тэатры імя Я. Купалы; «Апраўданне крыві», 1984, рэж. С. Еўдашэнка ў Брэсцкім тэатры імя ЛКСМБ), В. Казько («Суд у Слабадзе» — «Судны дзень», 1984, рэж. В. Маслюк у Магілёўскім абл. драматычным тэатры) і інш. Спектаклі, пастаўленыя па творах высокай ідэйна-маст. значнасці, пашырылі і ўзбагацілі нашы ўяўленні пра вайну паказам трагічных падзей першых месяцаў вайны, праўдзівых карцін жыцця ў час акупацыі, нараджэння партыз. руху, аналізам чалавечай псіхалогіі ў экстрэмальных умовах вайны. Інсцэніроўкай кнігі С. Алексіевіч «У вайны не жаночы твар» — спектаклем-споведдзю жанчын, якія ўдзельнічалі ў вайне, пад наз. «Гэтыя незразумелыя старыя людзі...» (1986, рэж. Р. Баравік) адкрыўся Дзярж. маладзёжны тэатр БССР у Мінску.

У спектаклях пра вайну адбіваецца духоўная сувязь пакаленняў, прасочваецца сувязь падзей вайны з сучаснасцю, яе ўплыў на чалавечы лёс: «Першы ўрок» Губарэвіча (1967, рэж. А. Струнін у Гродзенскім абл. драматычным тэатры; 1968, рэж. М. Калінін у Дзярж. рускім драматычным тэатры БССР імя М. Горкага пад наз. «Дзеля жыцця»), «Грэшнае каханне» А. Дзялендзіка ў Брэсцкім тэатры імя ЛКСМБ (1967, рэж. Баравік), «І змоўклі птушкі» Шамякіна (1977, рэж. Ф. Пуховіч) і «Злавеснае рэха» А. Петрашкевіча (1984, рэж. М. Кавальчык) у Магілёўскім абл. тэатры драмы і камедыі імя В. Дуніна-Марцінкевіча, «Удовін параход» паводле І. Грэкавай (1984, рэж. В. Тарнаўскайтэ) у Магілёўскім абл. драматычным тэатры.

У 1970—80-я г. больш глыбока асэнсоўваецца Айч. вайна. Гэта выяўляецца перш за ўсё ў паказе суровай праўды вайны, яе страшнай антычалавечай сутнасці, паказе яе як агульнанар. трагедыі. Адчувальная тэндэнцыя да больш аб'ёмнага аналізу ўнутранага стану герояў, раскрыцця пабуджальных матываў гераічных учынкаў сав. людзей у гады вайны, паказу чалавечага лёсу ў непарыўнай сувязі з лёсам Айчыны, народа. Новую ступень у мастацкім асваенні тэмы Айч. вайны ў сав. тэатры азнаменаваў спектакль «Трыбунал» А. Макаёнка ў тэатры імя Я. Купалы (1971, рэж. Раеўскі). Ён быў вырашаны на мяжы высокай трагедыі і бытавой камедыі, дзе трагедыйнае і камедыйнае сплаўляецца ў сцэнічных характарах, у агульнай эмацыянальнай танальнасці ўсяго спектакля, яго вобразна-метафарычнай стылістыцы. Па-мастацку абагульненыя і разам з тым рэальныя самабытныя нар. характары стварылі ў ім Г. Макарава (Паліна) і асабліва Г. Аўсяннікаў (Цярэшка Калабок), што ў значнай ступені вызначыла ідэйна-мастацкі ўзровень усёй пастаноўкі. Гімнам стойкасці і самаахвярнасці сав. людзей, гімнам жанчыне прагучаў спектакль «А досвіткі тут ціхія...» паводле Б. Васільева (1971, рэж. Б. Эрын) у тэатры імя Я. Коласа (у гал. ролі старшыны Васкова Ф. Шмакаў).

У 1980-я г. з'явамі тэатральнага мастацтва сталі пастаноўкі пра Айч. вайну «Радавыя» А. Дударава ў тэатры імя Я. Купалы (1984, рэж. Раеўскі, Дзярж. прэмія СССР 1985) і тэатры імя Я. Коласа (1985, рэж. В. Мазынскі), «Знак бяды» паводле Быкава ў Дзярж. рускім драматычным тэатры БССР імя М. Горкага (1985, рэж. Маслюк, Дзярж. прэмія БССР 1986), якія ўзнімалі складаныя філасофскія праблемы чалавечага быцця. Сілай эмацыянальнага ўздзеяння, мастацкай цэласнасцю ўражваў спектакль «Радавыя». Праз лёс канкрэтных сцэнічных персанажаў (Дугін — А. Дзянісаў, Дзерваед — В. Філатаў, Адуванчык — В. Манаеў) выканаўцы ўзнімаліся да мастацкага абагульнення драматычнага лёсу ўсяго сав. народа ваен. часу. З вял. драматызмам паказана ў спектаклі «Знак бяды» трагічная гісторыя бел. сялян, працэс узыходжання іх — Сцепаніды (В. Клебановіч) і яе мужа Петрака (А. Ткачонак) — да вяршынь грамадзянскай мужнасці.

Тэатры Беларусі стварылі мастацкі сцэнічны летапіс подзвігу сав. народа ў гады Айч. вайны. Спектаклі пра вайну і ў якіх адбіліся яе падзеі (у дужках прозвішчы рэжысёраў): Беларускі тэатр імя Янкі Купалы: «Пётр Крымаў» К. Фіна (1943, Е. Міровіч), «За тых, хто ў моры!» Б. Лаўранёва і «Маладая гвардыя» паводле А. Фадзеева (1947, Л. Літвінаў), «Цытадэль славы» К. Губарэвіча (1950, К. Саннікаў), «Прага застаецца маёй» Ю. Буракоўскага (1952, У. Кухта), «Макар Дубрава» А. Карнейчука (1952, Л. Мазалеўская), «Чацвёрты» К. Сіманава (1962), «І змоўклі птушкі» (1977) і «Бераг» паводле Ю. Бондарава (1980, Б. Эрын), «Рускія людзі» (1963, Ю. Шчарбакоў), «Я, бабуля, Іліко і Іларыён» Н. Думбадзе і Г. Лордкіпанідзе (1965, Р. Агамірзян), «Мой бедны Марат» А. Арбузава (1965, В. Броўкін), «Канстанцін Заслонаў» (новая рэдакцыя 1967, Б. Ганага, Б. Платонаў, І. Ждановіч), «Памяць сэрца» А. Карнейчука (1970, Б. Луцэнка), «Апошні шанц» В. Быкава (1974) і «Чалавек з легенды» І. Ражкова і Я. Шабана (1978, В. Раеўскі), «Эшалон» М. Рошчына (1975, Раеўскі і А. Андросік), «Зоркі вечныя» М. Бора (1984, Б. Гомбач).

Беларускі тэатр імя Якуба Коласа: «Дзень жывых» А. Бруштэйн (1942, Н. Аноева), «Плошча кветак» В. Ільенкава (1944), «Цэнтральны ход» (1948) і «Алазанская даліна» (1949, М. Міцкевіч) Губарэвіча і І. Дорскага, «Так і будзе» Сіманава (1945), «Далёка ад Сталінграда» А. Сурава (1946) і «Крэпасць над Бугам» С. Смірнова (1956, Н. Лойтар), «Я хачу дамоў» С. Міхалкова (1949, Л. Мазалеўская), «Родная маці» М. Алтухова (1956, А. Скібнеўскі), «Юныя мсціўцы» А. Гутковіча і У. Хазанскага (1957, Лойтар і Скібнеўскі), «Мой бедны Марат» (1964, С. Ларывонаў), «Праўда і крыўда» паводле М. Стэльмаха (1965) і «Сэрца на далоні» паводле І. Шамякіна (1966, А. Падабед), «Жаркае лета ў Берліне» паводле Дз. К'юсак (1966, Ю. Коршун), «Шчыт і меч» паводле В. Кажэўнікава (1967, В. Каралько), «Захавай маю тайну» В. Сабко (1967) і «17 імгненняў вясны» паводле Ю. Сямёнава (1970, Ф. Шмакаў), «Салаўіная ноч» В. Яжова (1970) і «Снежныя зімы» паводле Шамякіна (1972, С. Казіміроўскі), «Лёнушка» Л. Лявонава (1975, І. Папоў), «Адпачынак на раненні» паводле В. Кандрацьева (1982, Г. Мушперт), «Паядынак» М. Матукоўскага (1985, Эрын).

Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача імя 50-годдзя камсамола Беларусі:

«Юныя мсціўцы» (1957, Мазалеўская і В. Пацехін), «Час любві і нянавісці» Я. Пасава (1959, Мазалеўская), «Марат Казей» В. Зуба (1964, Н. Ігнатава). «Варшаўскі набат» В. Карастылёва (1966, У. Маланкін), «Бумеранг» А. Татарскага (1966, Дз. Ніжнікоўская), «Дзеці аднаго дома» Шамякіна (1967, В. Скарабагатаў), «Палёт» У. Мехава (1969, Л. Тарасава), «Дарога праз ноч» А. Маўзона (1970, Б. Ганага), «Гаўрошы Брэсцкай крэпасці» А. Махнача (1972, Р. Баравік), «Маладая гвардыя» (1975, П. Хомскі), «Партызанская зона» Губарэвіча (1976, Баравік і А. Курловіч), «Барабаншчыца» (1978, Папоў), «Выбар» А. Дударава (1980, Ю. Нікалаеў), «Рэпартаж з пятлёй на шыі» О. Зяленкі (1983, К. Брында), «Паядынак» (1984) і «У спадчыну — жыццё» А. Петрашкевіча (1985, У. Караткевіч).

Дзяржаўны рускі драматычны тэатр БССР імя М. Горкага: «Сустрэча ў цемры» Ф. Кнорэ (1944) і «За другім фронтам» В. Сабко (1949, С. Уладычанскі), «Старыя сябры» Л. Малюгіна (1946, Ю. Арынянскі), «Дарога перамогі» У. Салаўёва (1947, А. Данаці), «Брэсцкая крэпасць» (1954, В. Фёдараў), «І адзін у полі воін» паводле Ю. Дольд-Міхайліка (1959) і «Вечны агонь» П. Харкова (1963, М. Співак), «Подзвіг становіцца вядомым» Р. Раманава (1959, Б. Дакутовіч), «Нашэсце» (1964, Маланкін), «Шчыт і меч» (1967, А. Ільін), «Руіны страляюць ва ўпор» паводле І. Новікава і «Усяго адно жыццё» А. Маўзона (1969, М. Сулімаў), «А досвіткі тут ціхія...» (1971, Б. Глаголін), «Васіль Цёркін» паводле А. Твардоўскага (1975, Луцэнка), «Вяртанне ў Хатынь» паводле А. Адамовіча (1977) і «Пайсці і не вярнуцца» паводле В. Быкава (1978, паст. Луцэнкі, рэж. М. Кавальчык), «Бабіна царства» паводле Ю. Нагібіна (1984, Маслюк).

Брэсцкі абласны драматычны тэатр імя ЛКСМБ: «Старыя сябры» (1947, В. Яфімаў), «Маладая гвардыя» (1947, Ю. Рашымаў), «Канстанцін Заслонаў» і «За другім фронтам» (1949, А. Міронскі), «Сапраўдны чалавек» паводле Б. Палявога (1955, С. Рэйнгольд), «Людзі, якіх я бачыў» Смірнова (1958, Я. Батурын), «Каменьчыкі на далоні» Салынскага і «Жаркае лета ў Берліне» (1965), «Усяго адно жыццё» (1969; Г. Волкаў), «Сэрца на далоні» (1966, Волкаў і У. Серафімовіч), «Захавай маю тайну» (1968), «Старыя сябры» (1970) і «Трыбунал» (1971, Баравік), «17 імгненняў вясны» (1970), «А досвіткі тут ціхія...» (1972), «Вернасць» В. Бяргольц (1974) і «І змоўклі птушкі» (1977, С. Еўдашэнка).

Гомельскі абласны драматычны тэатр: «І адзін у полі воін» (1959, Л. Эльстон), «Раскінулася мора шырокае» У. Азарава, У. Вішнеўскага і А. Крона (1965, М. Станіслаўскі), «Сэрца на далоні» (1965, Ю. Арынянскі), «Шчыт і меч» (1967), «Грэшнае каханне» (1968), «Жыццё ўсяго адно» (1969) і «17 імгненняў вясны» (1970, І. Папоў), «Вайна пад стрэхамі» (1967, У. Караткевіч), «Маленькія салдаты Брэсцкай крэпасці» (1969, Л. Манакова), «Барабаншчыца» (1970, Ю. Кніжнікаў), «Жыві і помні» паводле В. Распуціна (1980) і «Нашэсце» (1984, В. Бартосік), «Апошні ўзлёт» Дударава (1984, М. Трухан).

Гродзенскі абласны драматычны тэатр: «За тых, хто ў моры!» (1947, Е. Гур'еў), «За другім фронтам» (1950, С. Рахманаў), «Прага застаецца маёй» (1951, В. Іконнікаў), «Макар Дубрава» (1952, І. Стасенка), «Гэта было ў Мінску» А. Кучара (1952, Папоў), «Перабежчык» П. і А. Тур і «Сэрца на далоні» (1965), «Раскінулася мора шырокае» і «Захавай маю тайну» (1968), «Трыбунал» (1971) і «Апошні шанц» (1973, рэж. усіх А. Струнін), «Трэцяга не дадзена» Л. Караічава (1976) і «Даруй мяне» В. Астаф'ева (1980, Караткевіч), «Я, бабуля, Іліко і Іларыён» (1983, Гавядзінаў), «Вечна жывыя» В. Розава (1983, А. Шалыгін), «Акушэр» А. Кудраўцава (1986, І. Пятроўскі).

Магілёўскі абласны драматычны тэатр (б. Гомельскі): «Старыя сябры» (1946, М. Нікіцін), «Дарога перамогі» (1947, В. Мeяроўскі), «Канстанцін Заслонаў» (1947, Данаці).

Магілёўскі абласны драматычны тэатр: «Людзі, якіх я бачыў» (1958) і «Гэта было ў Магілёве» Я. Тарасава (1964, А. Раеўскі), «Барабаншчыца» (1959, М. Харошка), «Перабежчык» (1965), «Сэрца на далоні» (1966), «Дняпроўскі рубеж» Тарасава (1967) і «Усяго адно жыццё» (1970, Б. Валадарскі), «Абеліск» Г. Мамліна (1966, П. Бекіш), «Мой бедны Марат» (1978, Ю. Ульяненка), «Нашэсце» (1980, Г. Вялкаў), «Адпачынак па раненні» (1982, Я. Амельчанка), «Сівы бусел» В. Ткачова (1985, А. Дольнікаў).

Магілёўскі абласны тэатр драмы і камедыі імя В. Дуніна-Марцінкевіча: «Трыбунал» (1970, В. Шыманскі), «А досвіткі тут ціхія...» (1971, М. Кавальчык і Шыманскі), «Абеліскі» А. Саннікава (1974, В. Каралько), «Бераг» (1980, Ф. Пуховіч), «Аперацыя «Сабіна» С. Свірыдава (1981, В. Баркоўскі).

Палескі абласны драматычны тэатр імя Янкі Купалы: «Заложнікі» (1944) і «Так і будзе» (1945, М. Кавязін), «Раскінулася мора шырокае» (1946, В. Пацехін).

Пінскі абласны драматычны тэатр: «Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона (1947), «Гэта было ў Мінску» (1948), «З народам» (1949) і «Алазанская даліна» (1950, В. Пацехін).

Дзяржаўны яўрэйскі тэатр БССР: «Так і будзе» (1945) і «Падводнікі» А. Вітэнзона і М. Зінгера (1949, А. Штэйн), «Паўстанне ў гета» П. Маркіша (1947, Літвінаў), «Лясы шумяць» паводле кнігі Р. Лінькова «Вайна ў тыле ворага» (1947, Лойтар). *Р. Б. Смольскі.*



**УВА́РАВІЧЫ**, гар. пасёлак у Буда-Кашалёўскім р-не, на р. Уза. За 21 км ад Буда-Кашалёва, за 8 км ад чыг. ст. Уза на лініі Гомель — Жлобін, аўтадарогамі звязаны з Гомелем і Буда-Кашалёвам. У 1926—62 цэнтр Уваравіцкага р-на. 3,9 тыс. жыхароў у 1939. У пач. вайны ў Уваравіцкім р-не сфарміраваны знішчальны батальён (камандзір Клімянок). 17.8. 1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў У. 247 жыхароў. Дзейнічалі Уваравіцкія падп. райкомы КП(б)Б (1.3—23.11.1943) і ЛКСМБ (май 1943 — 27.11.1943), *партызанская брыгада імя М. А. Шчорса,* выдавалася падп. газ. *«Калектывіст».* Вызвалены 27.11.1943 часцямі 11-й арміі (ген.-лейт. І. І. *Фядзюнінскі*) Бел. фронту ў ходзе *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943.* У У. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі. *Т. І. Паваліхіна.*

**УГЛО́ЎСКІ** Анатолій Яфімавіч (24.7. 1923, в Лужавіца Вялікаўсцюгскага р-на Валагодскай вобл.— 20.12.1943), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. ВЛКСМ. З 1942 на Калінінскім і 1-м Прыбалт. франтах. Бранябойшчык радавы У. вызначыўся пры вызваленні Віцебскай вобл. У ноч на 20.12. 1943, адбіваючы танк. контратаку каля в. Халуднае, з процітанк. гранатай кінуўся пад варожы танк і падарваў яго. Пахаваны ў в. Вымна Віцебскага р-на. Яго імем названы саўгас у Віцебскім р-не, вуліцы ў г. п. Лёзна, Сураж, Янавічы, в. Вымна. Каля в. Вымна і ў г. Вялікі Усцюг яму пастаўлены помнікі.



Помнік А. Я. Углоўскаму каля шашы Віцебск — Сураж, за 6 км ад в. Вымна Віцебскага р-на.

**УГНАЧО́Ў** Фёдар Антонавіч (2.1.1913, в. Слабада Горацкага р-на — 18.4. 1986), Герой Сав. Саюза (1945).

З 1941 на Паўд., 4-м і 3-м Укр., 1-м Бел. франтах. Камандзір стралк. аддзялення старшына У. вызначыўся ў баі на левым беразе Одры. 3.2.1945 замяніў забітага камандзіра ўзвода. Пад яго камандаваннем узвод адбіў 7 варожых контратак, знішчыў 3 танкі, бронетранспарцёр і больш за 50 гітлераўцаў. Пасля вайны на гасп. рабоце.

А. Я. Углоўскі. Ф. А. Угначоў.



**УЗБРО́ЕНЫЯ СІ́ЛЫ СССР.** Да пачатку Айч. вайны складаліся з Сухапутных войск, ВПС, ВМФ, войск ППА, Тылу. У іх склад уваходзілі таксама пагранічныя і ўнутраныя войскі. На тэр. СССР было 16 ваен. акруг, 1 фронт (Далёкаўсходні), 4 флоты (Паўн., Балтыйскі, Чарнаморскі, Ціхаакіянскі) і флатыліі. Вышэйшае кіраўніцтва абаронай краіны і У. С. СССР ажыццяўлялі ЦК ВКП(б), ВС СССР і СНК СССР. Непасрэднае ўпраўленне Узброенымі Сіламі ажыццяўлялі Нар. камісарыяты абароны і ВМФ. Абстаноўка нарастаючай у канцы 1930-х г. пагрозы нападу на СССР прад'яўляла высокія патрабаванні да арганізацыі і падрыхтоўкі У. С. СССР, павышэння іх баявой гатоўнасці. Неабходнасць умацавання арміі і флоту абгрунтавана ў рашэннях XVIII з'езда ВКП(б) (1939) і XVIII канферэнцыі ВКП(б) (1941), якія былі рэалізаваны ў пастановах ЦК ВКП(б) (1941) па канкрэтных ваен. і эканамічных пытаннях. Важнейшымі задачамі ў арганізацыйным будаўніцтве У. С. СССР у той час было павелічэнне колькасці войск, павышэнне іх тэхн. аснашчанасці.

За перадваен. пяцігодкі ў СССР вырасла магутная абаронная прамысловасць, якая дазваляла забяспечваць У. С. навейшай баявой тэхнікай і зброяй у адпаведнасці з вывадамі сав. ваен. навукі аб характары будучых войнаў. Да пач. вайны пераўзбройваліся сучаснай баявой тэхнікай усе віды і роды войск СССР. У Сухапутных войсках, якія займалі каля 80 % колькаснага складу У. С. СССР, рабіўся ўпор на развіццё стралк., бранятанк. і механіз. войск, артылерыі. Выраблялiся цяжкія танкі КВ і сярэднія Т-34, якія былі лепшымі танкамі 2-й сусв. вайны. У ВПС сталі паступаць новыя тыпы самалётаў. ВМФ папаўняўся новымі караблямі і падводнымі лодкамі. Закон аб усеагульным воінскім абавязку ад 1.9.1939 юрыдычна завяршыў пераход У. С. СССР на кадравую сістэму будаўніцтва, дазволіў павялічыць іх колькасць, якая да сярэдзіны 1941 складала больш як 5 млн. чал.

З ростам колькасці Узброеных Сіл ЦК ВКП(б) і Сав. ўрад разгарнулі шырокую сетку ваен.-навучальных устаноў па падрыхтоўцы камандных, паліт. і інж.-тэхн. кадраў. У 1941 іх было выпушчана ў 2,5 раза больш, чым у 1937. Да пач. вайны сярод кадраў У. С. СССР было 53,7 % камуністаў, 26,9% камсамольцаў. 26% каманднa-паліт. кадраў мелі баявы вопыт, што набылі ў гады грамадз. вайны ў нашай краіне, вайны ў Іспаніі, баях у Кітаі, на Халхін-Голе. Аднак не ўсе намечаныя мерапрыемствы былі завершаны да пач. вайны. Недастатковай была матарызацыя пяхоты, не завершана пераўзбраенне новымі ўзорамі ваен. тэхнікі. Разам з тым у ваен. будаўніцтве мелі месца памылкі, звязаныя з культам асобы І. В. Сталіна. Ён дапусціў неабгрунтаваныя рэпрэсіі шматлікіх вопытных і адданых ленінскай партыі камандных і паліт. работнікаў арміі і флоту. Па падліках ген.-лейт. А. І. Тадорскага ў выніку рэпрэсій напярэдадні вайны былі знішчаны 3 Маршалы Сав. Саюза (А. І. Ягораў, М. М. Тухачэўскі, В. К. Блюхер) з 5-і, 3 камандармы 1-га рангу (прыкладна адпавядае сучаснаму званню ген. арміі) з 5-і, усе 10 камандармаў 2-га рангу (ген.-палк.), 50 камкораў (ген.-лейт.) з 57-і, 154 камдывы (ген.-маёр) са 186-і, усе 16 армейскіх камісараў 1-га рангу (ген. арміі) і 2-га рангу (ген.-палк.), 25 карпусных камісараў (ген.-лейт.) з 28-і, 58 дывізіённых камісараў (ген.-маёр) з 64, 401 палкоўнік з 456-і. Былі бязвінна засуджаны і знішчаны ўсе камандуючыя войскамі, члены ваен. саветаў і начальнікі паліт. упраўленняў ваен. акруг, большасць начальнікаў цэнтр. упраўленняў Наркамата абароны, усе камандзіры карпусоў, амаль усе камандзіры дывізій і брыгад, каля $^1/_2$ камандзіраў і $^1/_3$ ваен. камісараў палкоў, многія выкладчыкі вышэйшых і сярэдніх ваен. і ваенна-паліт. навучальных устаноў. Сталін памыліўся ў ацэнцы ваеннастратэгічнага становішча, якое склалася напярэдадні вайны, пераацаніў значэнне пакта аб ненападзе, заключанага з Германіяй у жн. 1939.

За першыя 8 дзён Айч. вайны ў краіне было мабілізавана 5,3 млн. чал., на Беларусі за чэрв.— жн. 1941—500 тыс. чал. (гл. *Мабілізацыя*). З моманту ўварвання гітлераўцаў на тэр. СССР прыгранічныя ваен. акругі былі пераўтвораны ў франты. Асобая Зах. ваен. акруга, якая займала ўсю тэр. БССР, стала *Заходнім фронтам.* 23.6.1941 створана Стаўка Гал. Камандавання У. С. СССР, пераўтвораная 8.8.1941 у Стаўку Вярх. Галоўнакамандавання. Яе асн. рабочым органам быў Генштаб, Вярх. Галоўнакамандуючы — Сталін (з жн. 1942 уведзена пасада нам. ВГК — Г. К. *Жукаў*). 30.6.1941 утвораны надзвычайны орган — Дзярж. к-т абароны, старшыня — Сталін. З першых дзён вайны адзінства арміі і народа праявілася ў стварэнні *народнага апалчэння.* Дзеючая армія з чэрв. 1941 да ліст. 1942 павялічылася з 2,9 млн. да 6,59 млн. чал. За 5 месяцаў вайны на фронт былі накіраваны 291 дывізія і 94 брыгады, да канца 1941 сфарміравана больш як 400 новых дывізій. Са снеж. 1941 да ліст. 1942 колькасць асн. баявых сродкаў узрасла: па гарматах і мінамётах з 22 тыс. да 77,8 тыс. (без зенітных гармат), па танках з 1954 да 7350, па баявых самалётах з 2238 да 4544 адзінак. Працягвалася ўдасканаленне арганізацыйнай структуры ўсіх родаў войск. У чэрв. пачалося фарміраванне часцей рэактыўнай артылерыі, яе першыя залпы па ворагу былі зроблены пад Оршай 14.7.1941. У жорсткіх баях з агрэсарам на тэр. Беларусі і пад Смаленскам нарадзілася *гвардыя савецкая.* У выніку мабілізацыйных і арганізацыйных мерапрыемстваў да канца 1-га перыяду вайны (22.6.1941—18.11. 1942) павысілася ўдарная сіла Сухапутных войск за кошт якаснага і колькаснага росту аўтабранятанк. войск, артылерыі і вайсковай ППА. У жн. 1941 праведзена рэарганізацыя ВПС, паменшана колькасць палкоў у дывізіях і самалётаў у палках. Фарміраваліся палкі для начных дзеянняў, рэзервовыя авіягрупы, паветр. арміі. З ліст. 1941 пачалася карэнная рэарганізацыя ППА. Перабудавана сістэма навучання кадраў камандна-начальніцкага складу. За першыя 6 месяцаў вайны ў парт. арг-цыі У. С. СССР улілося больш за 1,1 млн. камуністаў. У чэрв. 1941 уведзены ін-т ваен. камісараў (скасаваны 9.10. 1942). У выніку праведзеных партыяй і ўрадам мерапрыемстваў У. С. СССР, нягледзячы на страты, панесеныя ў пачатковы перыяд вайны, да ліст. 1942 значна ўзмацнелі арганізацыйна, палепшылася іх тэхн. аснашчэнне і баявое майстэрства воінаў. Гераічная абарона Брэсцкай крэпасці, Мінска, Віцебска, Гомеля, Магілёва (гл. адпаведныя артыкулы), Ленінграда, Кіева, Адэсы, Севастопаля, *Смаленская бітва 1941* спрыялі зрыву ням.-фаш. плана *«маланкавай вайны».* У *Маскоўскай бітве 1941—42* Чырв. Армія канчаткова сарвала план «бліцкрыга» і развеяла міф аб непераможнасці фаш. арміі.

У 2-м перыядзе вайны (19.11.1942—снеж. 1943) арганізацыйныя мерапрыемствы ў арміі і на флоце былі накіраваны на забеспячэнне масіраванага выкарыстання і эфектыўнае скарыстанне баявой тэхнікі, на значнае павышэнне агнявой і ўдарнай магутнасці ўсіх відаў У. С. СССР. Да сярэдзіны 1943 яны перавышалі ворага па танках і артылерыі амаль у

2 разы, па самалётах — у 3 разы. Усяго ў дзеючай арміі ў снеж. 1943 было 11 франтоў, 55 упраўленняў агульнавайсковых армій і 3 танк. арміі. Павышэнне ролі авіяцыі ў ходзе вайны, якасны і колькасны рост самалётнага парку абумовілі неабходнасць новых істотных арганізацыйных пераўтварэнняў у ВПС. У ліст. 1942 завяршылася фарміраванне паветр. армій на дзеючых франтах. Арганізацыйна ўзмацнелі і колькасна выраслі войскі ППА. У ВМФ працягвалася стварэнне марскіх абарончых р-наў, павялічылася колькасць марской пяхоты, фарміраваліся новыя часці і злучэнні малых баявых караблёў. Створаны стратэгічныя рэзервы. Перамога ў *Сталінградскай бітве 1942—43* паклала пачатак карэннаму пералому ў вайне. З разгромам ням.-фаш. захопнікаў у *Курскай бітве 1943* і выхадам нашых войск да Дняпра летам 1943 завяршыўся карэнны пералом у ходзе Айч. вайны. Стратэгічная ініцыятыва канчаткова і да перамогі замацавалася за Вярх. Галоўнакамандаваннем У. С. СССР. Адметнай рысай сав. ваен. стратэгіі ў 2-м перыядзе вайны з'яўлялася наступленне, якое імкліва развівалася і ажыццяўлялася правядзеннем паслядоўных аперацый па фронце і ў глыбіню і, як правіла, групай франтоў. З ліст. 1942 да снеж. 1943 Чырв. Армія прайшла з баямі ад 500 да 1300 км і вызваліла ад ням.-фаш. захопнікаў каля 50 % акупіраванай сав. тэрыторыі. У 1943 завяршыўся якасна новы этап у будаўніцтве У. С. СССР: адбыліся істотныя змены ў тэхн. аснашчанасці і арганізацыйнай структуры арміі і флоту, развіцці ваен. майстэрства, асабовы склад набыў багаты вопыт вядзення баявых дзеянняў. Гэта знайшло адлюстраванне і ў новых статутах: Баявым статуце пяхоты (1942), праекце Палявога статута Чырв. Арміі (1943).

У пач. 1943 уведзены новыя знакі адрознення — пагоны. Усе камандзіры ад мал. лейтэнанта да палкоўніка сталі называцца афіцэрамі. У 1943 сярод афіцэраў ВПС было больш за 5300 беларусаў, афіцэраў танкістаў — 2490. Больш як 10 тыс. афіцэраў У. С. СССР усіх нацыянальнасцей геройна змагаліся ў партыз. атрадах РСФСР, Беларусі, Украіны і інш. рэспублік. На канец 1943 у радах У. С. СССР налічвалася больш за 2,7 млн. камуністаў і больш за 2,2 млн. камсамольцаў.

У 3-м перыядзе вайны (студз. 1944—9.5.1945) вораг перайшоў да жорсткай пазіцыйнай абароны; патрабаваліся значныя намаганні для яго разгрому. У снеж. 1943 — крас. 1944 сав. войскі ў ходзе наступлення на Правабярэжнай Украіне, якое разгарнулася на фронце да 1300—1400 км, разграмілі групоўку праціўніка і выйшлі да дзярж. граніцы. Летам 1944 У. С. СССР разгарнулі магутнае наступленне ў Карэліі, Беларусі (гл. *Беларуская аперацыя 1944*), Зах. Украіне, Малдавіі. Да пач. зімовай кампаніі 1945 У. С. СССР перавышалі праціўніка ў гарматах і мінамётах амаль у 4 разы, танках і самаходных арт. установках у 3 разы, баявых самалётах у 8 разоў. Дамінуючае палажэнне працягвалі займаць Сухапутныя войскі — 80 % колькаснага складу У. С. СССР.

Склалася стройная сістэма падрыхтоўкі кадраў для ўсіх відаў Узброеных Сіл, родаў войск, звёнаў кіравання. У 1944 ваен. навучальныя ўстановы падрыхтавалі для У. С. СССР 317 тыс. афіцэраў. Усяго за гады вайны было падрых-



Артылерысты вядуць агонь па ворагу ў раёне Гомеля. 1941.



Бой за Віцебск. 1944.



Вытворчасць самалётаў Іл-2 на адным з авіяцыйных заводаў. 1942.





Наступленне пяхоты ва ўзаемадзеянні з танкамі ў раёне Мінска. 1944.

тавана 1 млн. 238 тыс. афіцэраў. Структура У. С. СССР прайшла праверку часам і не патрабавала істотных змен. Удасканаленне ішло ў асн. па лініі паляпшэння кіравання, павышэння манеўранасці, ударнай і агнявой сілы. Характар і размах баявых дзеянняў сав. войск у 1944—45 прад'яўлялі новыя патрабаванні да тылу. Значна ўзрасла колькасць чыг. і дарожных войск, павялічылася колькасць аўтатранспарту.

Большая частка У. С. СССР знаходзілася на сав.-герм. фронце: 73 % асабовага складу, 73 % гармат і мінамётаў, 75 % танкаў і самаходных арт. установак, 65 % баявых самалётаў. Да гэтага часу ў Чырв. Арміі і на флоце знаходзілася больш за 3,3 млн. камуністаў, амаль 60 % усіх чл. партыі. Узраслі ўдарныя і агнявыя магчымасці У. С. СССР, іх гібкасць і зладжанасць структуры, што забяспечыла пераможнае завяршэнне Вял. Айч. і 2-й сусв. войнаў. У крас.— маі 1945 У. С. СССР у Берлінскай аперацыі разграмілі амаль мільённую групоўку гітлераўскіх войск і ўзнялі *Сцяг Перамогі* над рэйхстагам. Фаш. Германія была разгромлена і капітуліравала. Уступленне СССР у вайну на Далёкім Усходзе паскорыла разгром мілітарысцкай Японіі. Народы СССР і яго Узброеныя Сілы адыгралі рашаючую ролю ў вызваленні народаў Еўропы і Азіі ад пагрозы фаш. ярма, прынеслі ім свабоду і мір. Воіны У. С. СССР у бітвах Вял. Айч. вайны праявілі незвычайную стойкасць, масавы гераізм і самаадданасць. Высокія маральныя якасці сав. воінаў з'явіліся вынікам перавагі сацыяліст. ідэалогіі над чалавеканенавісніцкай ідэалогіяй фашызму, вынікам вял. работы Камуніст. партыі па выхаванню сав. людзей у духу высокіх ідэалаў патрыятызму і пралетарскага інтэрнацыяналізму, *дружбы народаў СССР*. На ўсіх франтах вайны ва У. С. СССР змагалася больш за 1,3 млн. жыхароў Беларусі, сярод іх 219 генералаў і адміралаў. 7 млн. воінаў былі ўзнаг. ордэнамі і медалямі, 11 635 воінам, партызанам і падпольшчыкам прысвоена званне Героя Сав. Саюза, у т. л. 403 сынам і дочкам Беларусі. На самых адказных участках баёў былі камуністы і камсамольцы. Яны складалі каля 50 % усіх узнагароджаных, 74 % Герояў Сав. Саюза. Масавы гераізм быў характэрны не толькі для асобных сав. воінаў, але і для цэлых часцей і злучэнняў, якім было ўручана 10,9 тыс. баявых ордэнаў. Шматлікія палкі і дывізіі ўзнагароджваліся неаднаразова. 354 разы Масква салютавала доблесным сав. войскам і флоту, у т. л. 36 разоў у гонар войск, якія вызначыліся пры вызваленні Беларусі (гл. *Салюты пераможныя*). Сотням баявых злучэнняў і часцей былі нададзены ганаровыя найменні вызваленых імі населеных пунктаў, 603 з іх — на Беларусі. *А. С. Харэбін.*

**УЗДА́,** гар. пасёлак, цэнтр Уздзенскага р-на, на р. Уздзянка. За 74 км на ПдЗ ад Мінска, за 22 км на Пд ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск — Баранавічы. Аўтадарогамі звязана з Негарэлым, Нясвіжам, Капылём і з аўтадарогай Мінск — Слуцк. З 1938 гар. пасёлак. 3,5 тыс. жыхароў у 1939. 28.6.1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў У. і раёне 5091 чал. На тэр. раёна дзейнічалі Уздзенскія падп. райкомы КП(б)Б (7.4.1943—2.7.1944) і ЛКСМБ (19.4. 1943—2.7.1944), *Уздзенскае партыйнае падполле,* партыз. брыгады М. М. Нікіціна, імя Варашылава, 300-я імя Варашылава, «Буравеснік» (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«За Савецкую Радзіму»*. Вызвалена 29.6.1944 партызанамі брыгады 300-й імя Варашылава (камандзір В. Р. Яроменка), якія ўтрымлівалі пасёлак да падыходу 4.7.1944 часцей 37-й гвардз. стралк. дывізіі (палк. В. Л. Марозаў) 65-й арміі 1-га Бел. фронту. У У. брацкая магіла партызан, загубленых у 1943 ням.-фаш. захопнікамі, магілы ахвяр фашызму, сав. воіна, на якіх пастаўлены помнікі; помнік Вызвалення і мемар. дошка ў гонар партызан, якія вызвалілі пасёлак. Працуе *Уздзенскі гісторыка-краязнаўчы музей.* *Н. У. Капранава.*

**У́ЗДЗЕНСКАЕ ПАРТЫ́ЙНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з ліп. 1941 да ліп. 1944 у Уздзенскім р-не пад кіраўніцтвам Уздзенскага падп. РК КП(б)Б, *Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б, Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б.* Барацьбой моладзі кіраваў Уздзенскі падп. РК ЛКСМБ.

З першых дзён акупацыі на тэр. раёна па ініцыятыве камуністаў арганізаваны падп. групы ў г. п. Узда, в. Бярвішчы, Возера (гл. *Возерскае патрыятычнае падполле*), Магільна, Цялякава і інш.; створаны Уздзенскі падп. партком, сакратар С. П. Шыбко, члены Л. Р. Бальшоў, А. Ф. Рабы, М. Дз. Талстой, П. Х. Шыбко (ліп. 1941— снеж. 1942). Дзейнасць парткома пашыралася на г. п. Узда, Каменскі, Цялякаўскі, Возерскі, Лашанскі і інш. сельсаветы Уздзенскага р-на і Дабрынёўскі сельсавет Дзяржынскага р-на. У жн. 1941 партком праз Бальшова наладзіў сувязь з *Мінскім партыйным падполлем.* Члены Уздзенскага к-та далучылі да падп. барацьбы мясцовы актыў, а таксама ваеннаслужачых, што выйшлі з акружэння.

Падпольшчыкі вялі агітацыйную работу сярод насельніцтва, распаўсюджвалі лістоўкі і сав. газеты, здабывалі паперу і масцiку для партыз. друкарняў, зрывалі мерапрыемствы ворага па вывазе насельніцтва ў Германію. Арганізавалі лячэнне параненых сав. воінаў у ўздзенскай бальніцы і ў падп. шпіталі ў в. Данілавічы Дзяржынскага р-на, дзе знаходзіліся 72 цяжка параненыя воіны Чырв. Арміі, усяго медыкі выратавалі больш за 300 параненых. Выраблялі халодную зброю для ваеннапалонных, якія рыхтаваліся да ўцёкаў з лагераў смерці Мінска.

У час падрыхтоўкі паўстання ваеннапалонных у Мінску (намячалася на 4.1.1942) падпольшчыкі прывезлі ў горад шмат зброі і боепрыпасаў. Разам з мінскімі падпольшчыкамі стварылі партыз. атрад, які правёў аперацыю супраць ням.-фаш. карнікаў (гл. *Александроўскі бой 1942*). У ліп. 1942 атрад перафарміраваны ў *партызанскую брыгаду М. М. Нікіціна.* Падпольшчыкі памагалі партызанам зброяй, медыкаментамі, перавязачным матэрыялам, вялі разведку ў варожых гарнізонах, на чыг. станцыях, сістэматычна парушалі тэлефонна-тэлеграфную сувязь ворага паміж Мінскам і Слуцкам, Цялякавам і Уздой, узарвалі будынак жандармерыі ў г. п. Узда.

У барацьбе з ворагам загінулі: Л. Р. Бальшоў, С. Ф. Бохан, П. М. Валожын, М. І. Валчэцкая, Н. М. Дзесюкевіч, Г. І. Журыд, І. Дз. Караневіч, М. М. Караневіч, С. І. Клімовіч, Я. М. Курбыка, Л. А. Леановіч, А. Л. Ліпай, З. С. Лісаковіч, П. А. Ляшчанін, У. С. Навіцкі, А. Ф. Рабы, А. С. і Г. А. Сяргеевы, М. Дз. Талстой, М. І. Тацькова, Д. П. Шавель, М. Дз. Шавель, А. І. Шакаль, М. С. Шамко, А. І., А. К., А. С., П. Х., С. П. Шыбко і інш.

*Б. В. Бокуць, Н. Ф. Рыдзеўскі.*

**У́ЗДЗЕНСКІ ГІСТО́РЫКА-КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты 1.11.1986. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, мае 600 экспанатаў асн. фонду, пл. 95 м². Прадстаўлены матэрыялы пра пачатковы перыяд вайны: гільза з зямлёю і аплаўленая цагліна Брэсцкай крэпасці, фатаграфіі, кнігі ўдзельніка абароны крэпасці пісьменніка-земляка А. Махнача, матэрыялы пра Героя Сав. Саюза Дз. М. *Карбышава,* зброя, абмундзіраванне, асабістыя рэчы, знойдзеныя на месцах баёў, і інш. Расказваецца пра ўзнікненне і разгортванне падполля і партыз. руху ў раёне (лістоўкі, падп. газ. *«За Савецкую Радзіму»*, сатырычнае выданне *«Раздавім фашысцкую гадзіну»*, барэльеф, бюст і асобныя тамы твораў У. І. Леніна, захаваныя ў час вайны жыхарамі раёна, матэрыялы пра *Уздзенскае партыйнае падполле,* Азерскую, Бервішчанскую, Магільнянскую, Нізоўскую, Цялякаўскую падп. групы, пячатка Цялякаўскай падп. групы, зброя, баявыя ўзнагароды, асабістыя рэчы, фатаграфіі партызан брыгад 300-й імя Варашылава, 200-й імя Ракасоўскага, «Буравеснік», М. М. *Нікіціна,* у т. л. камандзіра брыгады імя Варашылава В. Р. Яроменкі, камісара М. С. *Сцяпанава,* камісара атрада імя Катоўскага Я. К. Курушына і інш., фатаграфіі 18 удзельнікаў *Лаўскага бою 1942,* фатаграфіі і дакументы інтэрнацыяналістаў-антыфашыстаў, якія змагаліся ў партыз. атрадах на Уздзеншчыне і інш.). Экспануюцца матэ-

рыялы пра злачынствы ням.-фаш. захопнікаў у раёне. Расказваецца пра вызваленне горада і раёна воінамі 129-й і 96-й стралк. дывізій і партызанамі 300-й брыгады імя Варашылава, экспануюцца дакументы, асабістыя рэчы, пісьмы, фатаграфіі землякоў — удзельнікаў абароны Масквы, Ленінграда, Сталінграда, Каўказа, вызвалення краін Зах. Еўропы, Герояў Сав. Саюза У. Р. *Карачуна*, І. С. *Козіча* і інш. У экспазіцыі — карціна «У вызваленай Уздзе. Ліпень 1944» (маст. Ю. Пучынскі).

*А. М. Папко.*

**УЛАДЗІМІРАЎ** Віталь Піліпавіч (1911, Аршанскі р-н — 9.3.1943), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС. З 1941 у Чырв. Арміі. З снеж. 1941 удзельнік Асвейскага камуніст. падполля. У партызанах з мая 1942: камандзір групы, палітрук, з ліп. 1942 камісар *партызанскай брыгады Асвейскай імя М. В. Фрунзе*, адначасова чл. Асвейскага падп. РК КП(б)Б. Загінуў у баі.

**УЛАДЗІМІРАЎ** Канстанцін Рыгоравіч (1899, г. Рослаў Смаленскай вобл.— 18.7.1941), адзін з кіраўнікоў *Магілёва абароны 1941*. Чл. КПСС. Удзельнік грамадз. вайны. З 1923 у органах міліцыі. З падыходам ням.-фаш. захопнікаў да Магілёва капітан У. узначаліў батальён міліцыі з добраахвотнікаў (250 камуністаў і камсамольцаў), які 12—18.7.1941 каля в. Пашкава і Гаі прыкрываў подступы да чыг. вузла, 18 ліп. паранены У. павёў байцоў у контратаку, у час якой загінуў. Пахаваны ў брацкай магіле байцоў батальёна ў в. Гаі. У Магілёве яго імем названа вуліца. У гонар батальёна міліцыі на чале з У. у в. Гаі ў 1984 адкрыты мемар. комплекс.

**УЛАСАВЕЦ** Аляксандр Ігнатавіч (8.8. 1901, в. Лапацічы Слуцкага р-на — 23.1.1945), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1925. Удзельнік грамадз. вайны, партызан. У Чырв. Арміі з 1932. З ліп. 1942 на Сталінградскім Сцяпным, 2-м Укр. франтах. Камандзір стралк. палка падпалкоўнік У. вызначыўся ў бітве за Дняпро ў вер. 1943. Полк пад яго камандаваннем у ноч на 26.9.1943 пад агнём праціўніка фарсіраваў раку ў раёне Новы Орлік — Барадаеўка Днепрапятроўскай вобл., захапіў і расшырыў плацдарм, прычыніў ворагу страты ў жывой сіле і тэхніцы, гэтым садзейнічаў поспеху наступлення. Загінуў у баі пры вызваленні Польшчы. Пахаваны ў Брэсце. Яго імем названы вуліцы ў в. Лапацічы і ў Слуцку.

**УЛАСАЎ** Васіль Якаўлевіч (1896, в. Вял. Рабінкі Рослаўскага р-на Смаленскай вобл.— 23.2.1957), бел. сав. і парт. дзеяч. Чл. КПСС з 1920. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Свярдлоўскі камуніст. ун-т імя Леніна (1933). У 1938 сакратар Варашылаўскага РК КП(б)Б г. Мінска, з сак. 1941 сакратар ЦК КП(б)Б па паліве і энергетыцы. У Айч. вайну чл. ваен. саветаў 20-й арміі Зах. фронту, 7-й сапёрнай, 10-й рэзервовай, 5-й ударнай армій. Удзельнічаў у баях на Сцяпным, Данскім, 2-м і 3-м Укр., 1-м Бел. франтах. У 1946—54 міністр паліўнай прамысловасці БССР, у 1954—57 нам. міністра аўтамабільнага транспарту БССР. Чл. ЦК КПБ у 1939—54. Дэп. ВС БССР у 1951—55.

**УЛАСЕНКА** Ілья Архіпавіч (19.7.1902, г. Добруш — 11.5.1963), Герой Сав. Саюза (1943), ген.-маёр (1954). Чл. КПСС з 1929. У Чырв. Арміі з 1924. У Айч. вайну з ліп. 1941 на Зах., Сталінградскім, Цэнтр., 1-м Бел. франтах. Нач. палітаддзела, нам. камандзіра стралк. дывізіі па палітчастцы палкоўнік У. вызначыўся ў бітве за Дняпро на Пн ад Кіева. 23—25.9.1943 пры фарсіраванні ракі і ў баях на плацдарме мабілізаваў байцоў на масавы гераізм, што садзейнічала выкананню баявой задачы. Да 1958 у Сав. Арміі. Яго імем названа вуліца ў Добрушы.

**УМАЦАВАНЫ РАЁН (УР).** 1) Раён (паласа) мясцовасці, абсталяваны сістэмай абарончых збудаванняў і падрыхтаваны для працяглай і ўпартай абароны. Будаваліся ў сістэме ўмацаваных ліній уздоўж дзярж. граніцы. На Беларусі ў 1930—33 уздоўж зах. граніцы СССР былі пабудаваны Палескі, Слуцкі, Мінскі, Лепельскі і Полацкі УРы. Найбольш моцным з іх па насычанасці фартыфікацыйнымі збудаваннямі, агнявымі сродкамі і працягласці быў Мінскі УР. Пасля ўз'яднання Зах. Беларусі з БССР старыя УРы былі раззброены, у асн. дэманціраваны і страцілі сваё значэнне. Уздоўж новай граніцы пачалося збудаванне новых УРаў. Але іх будаўніцтва к моманту нападу фаш. Германіі на СССР не было закончана. 2) Штатнае вайсковае фарміраванне (злучэнне), прызначанае для выканання абарончых задач. У час Айч. вайны УРы складаліся з некалькіх кулямётна-арт. батальёнаў, дывізіёнаў палявой артылерыі, падраздзяленняў забеспячэння і абслугоўвання. Арганізацыйна ўваходзілі ў склад агульнавайсковых армій. У перыяд *Беларускай аперацыі 1944* УРы былі ў складзе франтоў: 1-га Прыбалт. (155-ы УР у 43-й арміі), 3-га Бел. (152-і УР у 11-й гвардз. арміі), 2-га Бел. (154-ы УР у 33-й арміі), 1-га Бел. (119-ы, 153-і і 161-ы УРы ў 28-й арміі, 115-ы УР у 48-й арміі). У перыяд *Бабруйскай аперацыі 1944* 115-ы УР (камандзір ген.-маёр Ф. П. Пічугін) сумесна з інш. злучэннямі 48-й арміі 26.6.1944 вызвалілі горад і буйны чыг. вузел Жлобін, загадам ВГК ад 2.7.1944 быў удастоены ганаровага наймення «Жлобінскага».

*М. І. Камінскі.*

**УПАЎНАВАЖАНЫЯ ЦК І АБКОМАЎ КП(Б)Б І ЛКСМБ,** надзвычайны інстытут, створаны ў 2-й пал. 1942 [у КП(б)Б з кастр., у ЛКСМБ з ліп.— жн.] па-за рамкамі статутаў ВКП(б) і ВЛКСМ у мэтах хутчэйшага фарміравання, умацавання і павышэння ролі падп. парт. органаў і арг-цый, узмацнення эфектыўнасці баявой дзейнасці партыз. сіл і масава-паліт. работы на акупіраванай тэр. Беларусі. Назначаліся па абласцях, групах раёнаў, асобных раёнах і гарадах.

А. І. Уласавец. І. А. Уласенка.



Асаблівая адказнасць ускладалася на ўпаўнаважанага ЦК КП(б)Б па вобласці, які ад імя ЦК вырашаў усе пытанні партыз. руху і парт.-камсам. падполля на тэр. вобласці. Яго дырэктывы і ўказанні былі абавязковымі для ўсіх камуністаў і камсамольцаў, якія працавалі ў падполлі, і для каманднa-паліт. саставу партыз. брыгад і атрадаў, дыверсійных і разведвальных груп, што дзейнічалі на тэр. вобласці. Важнейшымі задачамі, рашэнне якіх ускладалася на ўпаўнаважанага ЦК КП(б)Б па вобласці, з'яўляліся: стварэнне падп. парт. органаў, паліт. кіраўніцтва барацьбой насельніцтва супраць акупантаў, баявой дзейнасцю партыз. фарміраванняў і разведкай у інтарэсах Чырв. Арміі, работай упаўнаважаных ЦК па раёнах і гарадах, падп. парт. арг-цыямі, падбор парт. і камсам. работнікаў, каманднa-паліт. саставу партыз. брыгад і атрадаў, арганізацыя выдання і распаўсюджання газет, лістовак і інш. Упаўнаважаны ЦК па вобласці быў падсправаздачны толькі ЦК КП(б)Б. У дапамогу яму назначаліся, як правіла, 3—4 памочнікі, у т. л. адзін камсам. работнік з правам упаўнаважанага ЦК ЛКСМБ па вобласці. У 1942—43 упаўнаважанымі ЦК КП(б)Б па абласцях працавалі І. Дз. Вятроў, В. І. Казлоў, І. М. Кардовіч, А. Я. Кляшчоў, І. П. Кожар, С. І. Сікорскі, В. Я. Чарнышоў, Ф. М. Языковіч. Упаўнаважаныя ЦК і абкомаў КП(б)Б па групах раёнаў, асобных раёнах і гарадах выконвалі ў сваіх зонах тыя ж па характару задачы, што і ўпаўнаважаны па абласцях. Упаўнаважаныя ЦК па раёнах і гарадах працавалі пад кіраўніцтвам

упаўнаважаных ЦК па вобласці і ЦК КП(б)Б, упаўнаважаныя абкомаў — пад кіраўніцтвам адпаведных абл. к-таў КП(б)Б. У лют. 1943 на акупіраванай тэр. Беларусі вялі работу 54 упаўнаважаныя ЦК і абкомаў КП(б)Б. Шэраг парт. работнікаў былі накіраваны на месцы ў якасці упаўнаважаных і ў наступныя месяцы (у большасці выпадкаў у зах. вобласці).

В. К. Урбановіч. В. С. Уткін.





Мемарыяльны комплекс **Урочышча Гай.** Галоўны манумент.

У 1942—43 на акупіраванай тэр. рэспублікі працавала больш за 100 упаўнаважаных ЦК і абкомаў ЛКСМБ. Многія з іх адначасова з'яўляліся памочнікамі адпаведных упаўнаважаных ЦК і абкомаў КП(б)Б. Асн. задачы ўпаўнаважаных камсам. работнікаў заключаліся ў стварэнні, расшырэнні і ўмацаванні сеткі падп. камсам. органаў і арг-цый, далучэнні камсамольцаў і моладзі да актыўнай узброенай барацьбы з ворагам, разведвальнай і агітацыйна-прапагандысцкай работы. Упаўнаважанымі ЦК ЛКСМБ па абласцях працавалі П. М. Альшанскі, М. П. Забела, І. А. Матыль, У. С. Міхнян, С. І. Пармон, М. Л. Пінязік, Ф. Дз. Рома, А. Дз. Рудак, А. К. Рыбакоў, Т. М. Стрыжак.

У 1943 пастаўленыя перад упаўнаважанымі задачы былі ў асн. выкананы (да канца года яны дзейнічалі толькі ў некалькіх раёнах Баранавіцкай. Беластоцкай, Брэсцкай і Вілейскай абл.). Іх функцыі перайшлі да падп. абласных, раённых і гар. парт. і камсамольскіх органаў, якія ўзначальвалі, як правіла, упаўнаважаныя. *А. А. Тозік.*

**«УПЕ́РАД»,** газета, заснавана ў 1939. У час ням.-фаш. акупацыі орган *Лідскага падпольнага гаркома-райкома КП(б)Б.* Вядомы 33 нумары за 29.5.1943—22.6.1944 на бел. і рус. мовах. Рэдактары: Г. Р. Каган, Ю. Б. Драгун (са жн. 1943). Пасля вызвалення выдавалася пад той жа назвай, з 1962 «Сцяг працы», з 1966 «Уперад», орган Лідскіх райкома і гаркома КПБ, раённага і гар. Саветаў нар. дэпутатаў.

**УРБАНО́ВІЧ** Віктар Казіміравіч (2.6. 1898, Рыга — 3.6.1977), ген.-лейт. (1944). Чл. КПСС з 1918. Беларус. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1928). У арміі з 1916, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. У Айч. вайну на Паўн.-Зах., Зах., Калінінскім, Бранскім, Цэнтр., Бел., 2-м, 3-м і 1-м Бел. франтах: камандзір дывізіі, нач. аператыўнага аддзела штаба арміі, камандзір корпуса. Удзельнік бітвы пад Масквой, вызвалення Беларусі, Польшчы, Усх.-Прускай і Берлінскай аперацый. Пасля вайны да 1960 на адказных пасадах у войсках Мінскай ваен. акругі, БВА і ў цэнтр. апараце Міністэрства абароны СССР. Канд. у чл. ЦК КП(б)Б у 1949—52. Дэп. ВС БССР у 1947—51.

**УРБАНО́ВІЧ** Іосіф Паўлавіч (псеўд. Максім; 3.4.1907, в. Шэйпічы Пружанскага р-на — 20.7.1944), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў антыфаш. падполля і партыз. руху ў Брэсцкай вобл. Чл. КПЗБ з 1928. З 1930 сакратар Баранавіцкага, Брэсцкага акруговых к-таў КПЗБ. У 1931—34 за рэв. дзейнасць уладамі бурж. Польшчы зняволены ў турму. Пасля вызвалення Зах. Беларусі (1939) старшыня Ружанскага пасялковага Савета. З жн. 1941 у тыле ворага. Адзін з арганізатараў *раённых антыфашысцкіх арганізацый,* сакратар Ружанскага раённага антыфаш. к-та, ініцыятар стварэння, з 1942 сакратар *Брэсцкага міжраённага «Камітэта барацьбы з нямецкімі акупантамі»,* які ў 1943 рэарганізаваны ў *Брэсцкі абласны антыфашысцкі камітэт.* У чэрв.—ліп. 1943 камандзір *партызанскай брыгады імя П. К. Панамарэнкі.* Арганізатар разгрому гарнізона ў Косаве (2.8.1942). Загінуў пры выкананні службовых абавязкаў. Яго імем названы вуліцы ў Косаве, Пружанах, Ружанах (і сквер), у в. Варанілавічы Пружанскага р-на. У Ружанах пастаўлены помнік, на будынку выканкома раённага Савета — мемар. дошка.

**УРО́ЧЫШЧА ГАЙ,** месца масавага знішчэння ням.-фаш. захопнікамі 3 тыс. чэхаславацкіх грамадзян (зах. ўскраіна г. Баранавічы, ва ўрочышчы Гай). У чэрв. 1942 фашысты даставілі на чыг. ст. Баранавічы эшалон з грамадзянамі Чэхаславакіі. Невялікімі групамі гітлераўцы выводзілі людзей ва ўрочышча і расстрэльвалі. Забітых скідвалі ў 2 вялізныя равы. У 1971—72 на ўшанаванне памяці ахвяр фаш. тэрору створаны мемар. комплекс (скульпт. М. Альштулер, арх. А. Макараў, А. Марэніч, М. Мілавідаў).

На месцы, дзе стаяў кулямёт, з якога расстрэльвалі людзей, устаноўлены 2 пілоны (выш. 13 і 14 м). Яны нагадваюць слупы агароджы канцлагера. Уверсе да іх прымацаваны бронзавы звон, ніжэ — медны рэльеф (чалавечыя рукі, якія перадаюць эмацыянальны стан людзей у момант расстрэлу). У комплекс уваходзяць 2 брацкія магілы, аб'яднаныя бетонная плітой-эшафотам з надпісам, сімвалічны парог жыцця і смерці (бетонны брус, пакладзены ўпоперак палявой дарогі), сцяна загінуўшых з 3 тыс. камянёў. Лаканічнае вырашэнне тэмы і выразнасць помніка робяць вял. эмацыянальнае ўражанне.

**ЎСАЎ** Віктар Міхайлавіч (21.12. 1916, г. Нікапаль Днепрапятроўскай вобл.— 23.6.1941), Герой Сав. Саюза (1965). Чл. ВЛКСМ. Скончыў Харкаўскае ваен. вучылішча (1940). У Чырв. Арміі з 1936. Начальнік пагранзаставы лейтэнант У. вызначыўся ў баях пры абароне дзярж. граніцы СССР на тэр. Беластоцкай вобл. 22.6. 1941 пагранічнікі заставы пад яго камандаваннем на працягу 10 гадз адбівалі атакі намнога большых сіл ням.-фаш. войск. Загінуў у баі. Пахаваны за 6 км ад г. п. Сапоцкін у брацкай магіле. У г. Гродна яму пастаўлены помнік. Імем У. названы пагранзастава на зах. граніцы, вёска ў Гродзенскім р-не, вуліцы на радзіме, у Гродне (і школа).

**ЎСАЎ** Мікалай Ягоравіч (н. 9.5.1913, в. Вял. Кулігі Невельскага р-на Пскоўскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Вілейскай вобл. Чл. КПСС з 1942. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. З 1940 на культурна-асветнай рабоце ў Баранавічах. У партызанах з мая 1942: з снеж. 1942 нач. штаба, камісар атрада, у крас. 1943 — ліп. 1944 *партызанскай брыгады 1-й імя А. В. Суворава,* адначасова чл. Пліскага падп. РК КП(б)Б. З 1944 на парт. рабоце ў Маладзе-

чанскай вобл., у 1951—58 на з-дзе ў Мінску. Аўтар успамінаў «У сям'і партызанскай» (1988).

**УСЕНАРО́ДНАЯ БАРАЦЬБА́ Ў ТЫ́ЛЕ ВО́РАГА** на акупіраванай тэрыторыі Беларусі, састаўная частка барацьбы сав. народа супраць ням.-фаш. захопнікаў. Пачала разгортвацца з першых дзён акупацыі рэспублікі ў абставінах жорсткага *акупацыйнага рэжыму*. Агульныя мэты, задачы і асн. формы гэтай барацьбы былі вызначаны ў *Дырэктыве СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 29.6.1941 партыйным і савецкім арганізацыям прыфрантавых абласцей, Дырэктыве ЦК КП(б)Б ад 30.6.1941 аб падрыхтоўцы да пераходу на падпольную работу партарганізацый раёнаў, якія знаходзіліся пад пагрозай фашысцкай акупацыі, Дырэктыве ЦК КП(б)Б ад 1.7.1941 партыйным, савецкім і камсамольскім арганізацыям па разгортванню партызанскай вайны ў тыле ворага, Пастанове ЦК ВКП(б) ад 18.7.1941 «Аб арганізацыі барацьбы ў тыле германскіх войск»*. Арганізацыю і кіраўніцтва барацьбой у тыле ворага ажыццяўлялі ВКП(б) і яе Цэнтр. Камітэт, *Камуністычная партыя Беларусі* і *Цэнтральны Камітэт КП(б)Б, Цэнтральны штаб партызанскага руху* (ЦШПР), *Беларускі штаб партызанскага руху* (БШПР). Непасрэдна на месцах арганізацыйную работу вялі 10 *абласных падпольных камітэтаў КП(б)Б*, 193 *міжраённыя падпольныя камітэты КП(б)Б, міжраённыя падпольныя партыйныя цэнтры, гарадскія падпольныя камітэты КП(б)Б, раённыя падпольныя камітэты КП(б)Б*, больш за 1200 пярвічных парт. арг-цый у партыз. атрадах і брыгадах, 184 тэрытарыяльныя падп. парт. арг-цыі, а таксама абласныя, міжраённыя, гар. і раённыя падп. к-ты ЛКСМБ (гл. адпаведныя артыкулы).

Парт. падполле з'яўлялася правадніком палітыкі партыі, здзяйсняла ідэйна-паліт. і арганізацыйнае кіраўніцтва ўсімі формамі барацьбы народа ў тыле ворага. У парт. падполлі і кіруемых ім камсам. і антыфаш. арг-цыях знаходзілася больш за 70 тыс. чал. (гл. *Партыйнае падполле, Камсамольска-маладзёжнае падполле, Антыфашысцкія арганізацыі*). Партыз. барацьба паказвала баявую і ўсю інш. дзейнасць узброеных партыз. сіл (груп, атрадаў, брыгад, злучэнняў і інш.). На тэр. Беларусі ў партыз. фарміраваннях змагалася з ворагам больш за 374 тыс. чал. Цераз партыз. рэзервы за гады вайны прайшлі амаль 400 тыс. мясцовых жыхароў, многія з якіх прымалі ўдзел ва ўзброенай барацьбе. Падпольшчыкі і партызаны ў цеснай сувязі і пры падтрымцы насельніцтва дзейнічалі ў кожным раёне, у многіх населеных пунктах Беларусі. Фактычна ўвесь бел. народ змагаўся ў тыле ворага адзіным фронтам. Да канца 1943 каля 60 % тэр. рэспублікі былі вызвалены ад акупантаў або кантраляваліся партызанамі (гл. *Партызанскія зоны*).

Зрыў насельніцтвам ваен., эканамічных і паліт. мерапрыемстваў акупантаў быў накіраваны на іх аслабленне, дэмаралізацыю, разгром. Важнейшымі метадамі гэтай барацьбы з'яўляліся: усебаковая дапамога партызанам (забеспячэнне адзеннем, абуткам, прадуктамі харчавання, збор і перадача зброі, боепрыпасаў, удзел у баявых і разведвальных аперацыях, у разбурэнні мастоў, дарог, сродкаў сувязі і інш.); сабатаж рабочымі дзейнасці прамысловых прадпрыемстваў, псаванне абсталявання і гатовай прадукцыі, вывядзенне са строю чыгунак, шасейных і інш. дарог у акупіраваных раёнах; укрыццё сялянамі жывёлы, сабранага ўраджаю, сельгаспрадуктаў, ухіленне ад мабілізацыі і інш. Усе формы барацьбы былі цесна звязаны паміж сабою, дапаўнялі і пераходзілі адна ў адну ў залежнасці ад абставін і з'яўляліся часткай адзінага цэлага.

Барацьба наносіла вял. страты акупантам, падточвала і аслабляла тыл фаш. арміі. З чэрв. 1941 да ліп. 1944 было пушчана пад адхон 11 128 воінскіх эшалонаў і 34 бронецягнікі, разгромлена 948 штабоў і гарнізонаў праціўніка, падарвана больш за 18 700 аўтамашын, узарвана і спалена 819 чыг. і 4710 інш. мастоў, перабіта больш за 300 тыс. рэек, разбурана звыш 7300 км лініі сувязі, знішчана многа баявой тэхнікі ворага, забіта і паранена больш за 500 тыс. гітлераўскіх салдат і афіцэраў.

Усенародная барацьба ў тыле фаш. войск аказвала вял. дапамогу Чырв. Арміі ў разгроме ворага, ператварылася ў важны фактар перамогі сав. народа. Яна наглядна паказала высокія маральна-паліт. якасці, глыбокі патрыятызм і інтэрнацыяналізм сав. людзей, іх бясстрашнасць, з'явілася найярчэйшым праяўленнем беззапаветнай адданасці сав. народа сваёй сацыялістычнай Радзіме, яго непахіснай волі ў імя перамогі над фашызмам. За гераізм і адвагу ў барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў у гады вайны каля 140 тыс. партызан і падпольшчыкаў Беларусі ўзнаг. ордэнамі і медалямі, 87 з іх прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

*Р. П. Платонаў, У. І. Лемяшонак.*

**УСХО́ДНЕ-СІБІ́РСКАЯ ГАРАДО́ЦКАЯ СТРАЛКО́ВАЯ ДЫВІ́ЗІЯ** гвардзейская Чырванасцяжная ордэна Суворава. Сфарміравана (назва ад месца фарміравання) у 1936 як 93-я стралк. дывізія ў складзе 3 стралк. і 2 арт. палкоў. З кастр. 1941 на Зах. фронце ў складзе 43-й арміі. 26.10.1941 уступіла ў баі з фаш. войскамі пад Падольскам, спыніла наступленне ворага на р. Нара. У снеж. 1941 перайшла ў наступленне. 20.4.1942 пераўтворана ў 26-ю гвардз. стралк. дывізію. З кастр. 1943 вяла баі на тэр. Усх. Беларусі. У ходзе наступальных баёў на віцебскім напрамку дывізія ва ўзаемадзеянні з інш. злучэннямі 11-й гвардз. арміі 1-га Прыбалт. фронту ў снеж. 1943 вяла баі за добра ўмацаваны вузел абароны фашыстаў г. Гарадок. За яго ўзяцце (гл. *Гарадоцкая аперацыя 1943*) ёй нададзена ганаровае найменне «Гарадоцкай» (24.12.1943). У *Беларускай аперацыі 1944* дзейнічала ў складзе 11-й гвардз. арміі 3-га Бел. фронту. У час *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944* прарвала глыбокаэшаланіраваную абарону ворага на аршанскім напрамку, з ходу фарсіравала Бярэзіну (30.6.1944), ва ўзаемадзеянні з інш. злучэннямі нанесла паражэнне праціўніку ў раёне г. Барысаў, за што ўзнаг. ордэнам Чырв. Сцяга (10.7.1944). 14.7.1944 дывізія фарсіравала Нёман і ўступіла на тэр. Германіі. Удзельнічала ва Усх.-Прускай аперацыі 1945, узнаг. ордэнам Суворава II ступені (19.2.1945). Удзельнічала ў штурме Кёнігсберга, знішчэнні варожай групоўкі і ўзяцці крэпасці Пілаў (цяпер Балтыйск). За гады вайны больш за 11 тыс. воінаў дывізіі ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР, 10 з іх прысвоена званне Героя Сав. Саюза, у т. л. мал. сяржанту Ю. В. *Смірнову*.

Камандзіры: ген.-маёр К. М. Эрастаў (чэрв. 1941 — сак. 1942), палк., з 27.11. 1942 ген.-маёр М. М. Каржанеўскі (сак. 1942 — студз. 1944), ген.-маёр Р. І. Чарноў (студз. 1944 — да канца вайны).

*М. І. Камінскі.*

**«УСХО́ДНІ ВАЛ»** (ням. «Ostwall»), стратэгічны абарончы рубеж, створаны ням.-фаш. войскамі на сав.-германскім фронце да восені 1943 на лініі р. Нарва — г. Пскоў — Віцебск — Орша — р. Сож — сярэдняе цячэнне р. Дняпро — р. Малочная з мэтай спыніць стратэгічнае наступленне Чырв. Арміі і выйграць час, спадзеючыся выклікаць раскол у антыфаш. кааліцыі і заключыць сепаратны мір з ЗША і Вялікабрытаніяй. Асноўная частка «У. в.» — умацаванні на р. Дняпро. У вер. 1943 у палосе ням. групы армій «Поўдзень» і «А» рубеж стаў называцца пазіцыяй «Ватан», у палосе груп армій «Поўнач» і «Цэнтр» — пазіцыяй «Пантэра». Да канца вер. 1943 сав. войскі нанеслі паражэнне праціўніку на Левабярэжнай Украіне, фарсіравалі р. Дняпро і прарвалі «У. в.» (гл. *Бітва за Дняпро 1943*). У ходзе наступальных *Бранскай аперацыі 1943, Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943, Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944* сав. войск быў пераадолен абарончы рубеж «Пантэра».

**У́ТКІН** Валерый Сцяпанавіч (14.1.1922, с. Алёшына Сасаўскага р-на Разанскай вобл.— 25.6.1944), Герой Сав. Саюза (1944). На фронце з 1941. Камандзір стралк. роты ст. лейтэнант У. вызначыўся ў баях за вызваленне Гомельскай вобл. 25.6.1944 каля в. Святое Возера Рагачоўскага р-на У. і баец С. Р. *Дрынь* са звязкамі гранат кінуліся пад самаходную гармату «фердынанд», цаной свайго

жыцця сарвалі контратаку праціўніка. Пахаваны ў Рагачове.

**У́ТКІН** Мікалай Васілевіч (29.12.1918, в. Міранегі Валдайскага р-на Наўгародскай вобл.— 13.7.1978), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1945. Скончыў Маскоўскі ун-т (1966). З чэрв. 1941 на фронце. З мая 1942 камандзір партыз. ўзвода, у чэрв. 1942 — чэрв. 1943 нач. штаба партыз. брыгады імя Чапаева, у ліп. 1943 — ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады 2-й Ушацкай імя П. К. Панамарэнкі.* Да 1970 на сав. і адм.-гасп. рабоце.

**У́ТКІН** Фёдар Яўхімавіч (27.12.1897, в. Студзянец Гаўрылава-Пасадскага р-на Іванаўскай вобл.— 18.8.1941), удзельнік *Гомеля абароны 1941.* Чл. КПСС з 1918. З 1916 у арміі, з 1918 у Чырв. Арміі. Удзельнік грамадз. вайны. З 1921 у пагранвойсках, войсках ДПУ. З 1927 у Асаавіяхіме ў Барысаве, Беластоку, Гомелі. У 1941 камандзір *Гомельскага палка народнага апалчэння.* 18.8.1941 полк на чале з капітанам У. займаў абарону каля в. Пакалюбічы і Сямёнаўка, адбіў 2 варожыя атакі. Смяротна паранены ў гэтым баі. Яго імем названа вуліца ў Гомелі.

**УША́ЦКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з ліп. 1941 да жн. 1942 у г. п. Ушачы і Ушацкім р-не пад кіраўніцтвам *Віцебскага падпольнага абкома КП(б)Б.* Аб'ядноўвала каля 100 чал., у т. л. 38 камуністаў і камсамольцаў. Для арганізацыі падп. барацьбы парт. органы пакінулі на тэр. раёна С. Я. *Барадаўкіна,* С. Б. Боркар, С. К. Паршонка, М. Ф. Машчова, А. І. Хвашча, У. Я. Васілеўскага і інш.; пасля акупацыі раёна ням.-фаш. захопнікамі Віцебскі абком паслаў сюды Ф. Ф. *Дуброўскага.* У ліп.— жн. створаны групы: у г. п. Ушачы (кіраўнік Барадаўкін), вёсках Жары (Дуброўскі), Апанасавічы і Янова (Боркар), Вял. Дольцы і Вясніцк (С. В. Маркевіч), Арэхаўна (І. А. Клопаў, з ліст. 1941 Ц. П. Гірсёнак). У жн.— вер. 1941 Дуброўскі наладзіў сувязь з гэтымі групамі і стаў каардынаваць іх дзейнасць. Адначасова арганізаваны падп. групы ў вёсках Астраўляны (М. А. *Цябут*), Усвіца (Васілеўскі), Глыбачка (У. Ф. Талочка), якія ў сярэдзіне жн. аб'ядналіся. Да вясны 1942 аб'яднанай група́й кіравала партбюро (сакратар Цябут, нам. Васілеўскі).

Падпольшчыкі вялі разведку для Чырв. Арміі, распаўсюджвалі сярод насельніцтва звесткі Саўінфармбюро, лістоўкі, зрывалі мерапрыемствы акупацыйных улад, перадалі партызанам больш за 100 адзінак стралк. зброі, 2 гарматы. Летам 1942 групы ўліліся ў партыз. атрад «Смерць фашызму». Перад адыходам у партызаны падпольшчыкі разграмілі фаш. гарнізон у в. Глыбачка і ўзнялі над будынкам камендатуры чырв. сцяг.

У барацьбе з ворагам загінулі: П. І. Бурак, А. Я. Валяўка, В. К. Дарашкевіч, Ф. Р. Дзенісенка, К. В. Казачонак, С. Дз. Казачонак, Ф. П. Кудраўцаў, І. А. Кулакоў, С. К. Паршонак, М. З. Станкевіч, З. П. Тамашэвіч, А. І. Хвошч, П. Ф. Хрыпель.

У 1958 ва Ушачах на брацкіх могілках падпольшчыкаў і сав. воінаў пастаўлены помнік. *В. С. Лазебнікаў.*

**УША́ЦКІ БОЙ 1942,** бой паміж партыз. брыгадамі Чашніцкай «Дубава», М. М. Нікіціна (гл. адпаведныя артыкулы) і ням.-фаш. захопнікамі ў г. п. Ушачы 28.9.1942.

Падрыхтоўка да разгрому гітлераўскага гарнізона ў г. п. Ушачы праводзілася паводле ўказання Віцебскага падп. абкома КП(б)Б і БШПР. План аперацыі распрацаваў нач. штаба Чашніцкай брыгады С. Я. *Барадаўкін,* кіраваў баявымі дзеяннямі камандзір брыгады Ф. Ф. *Дуброўскі.*

За тыдзень да аперацыі была праведзена разведка боем. Даныя разведкі дазволілі партызанам скрытна сканцэнтравацца на рубяжах атакі і ў ноч на 28 вер. нанесці першы ўдар па гарнізоне. Увечар 28.9.1942 партызаны пачалі штурм умацаваных пазіцый гітлераўцаў, авалодалі будынкамі камендатуры, паліцэйскага ўпраўлення, разграмілі турму і вызвалілі з яе людзей, якіх акупанты прыгаварылі да пакарання смерцю, знішчылі больш за 40 гітлераўцаў, спалілі склад з фуражом. Цяжкія для партызан баі разгарэліся за авалоданне будынкам школы і з падмацаваннем з Лепеля, якое рвалася на дапамогу акружаным ва Ушачах гітлераўцам. У выніку баёў праціўнік страціў не менш за 50 салдат забітымі і параненымі. У пач. кастрычніка рэшткі Ушацкага гарнізона пад аховай палявых матарызаваных падраздзяленняў вермахта былі эвакуіраваны ў Лепель. Ушачы былі заняты партызанамі, якія пакінулі ў пасёлку гарнізон на чале з У. С. Максімовічам (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 2-я Ушацкая імя П. К. Панамарэнкі*). *У. С. Пасэ.*




Экспазіцыя, прысвечаная Вялікай Айчыннай вайне, ва Ушацкім музеі народнай славы.

**УША́ЦКІ МУЗЕ́Й НАРО́ДНАЙ СЛА́ВЫ.** Адкрыты 6.11.1970. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, мае больш за 9 тыс. экспанатаў асн. фонду, пл. 1254 м$^2$. Прадстаўлены матэрыялы пра пачатковы перыяд вайны, узнікненне і разгортванне падполля і партыз. руху ў раёне (фатаграфіі, дакументы, асабістыя рэчы, узнагароды, пісьмы кіраўнікоў і ўдзельнікаў падп. груп г. п. Ушачы, вёсак Арэхаўна, Астраўляны, Вялікія Дольцы і інш., карта-схема «Ушацкае падполле», лістоўка падпольшчыкаў в. Жары, падп. газеты «За свабоду», «Калгасная праўда», «*Прымежны калгаснік*», «Сталінец» і інш. друкарская машынка, лістоўкі і шматтыражныя газеты Смаленскага партыз. палка, макет лагера партыз. брыгады Чашніцкай «Дубава», матэрыялы пра дзейнасць райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, у т. л. выпіска з пратакола камсам. канферэнцыі 2-й Ушацкай партыз. брыгады імя Панамарэнкі, дакументы, асабістыя рэчы, зброя, узнагароды, фатаграфіі партызан і інш.). Экспануюцца матэрыялы пра стварэнне і дзейнасць Полацка-Лепельскай аператыўнай групы ЦК КП(б)Б і БШПР (дакументы, асабістыя рэчы, узнагароды, зброя, фатаграфіі камандзіра Героя Сав. Саюза У. Е. *Лабанка,* нам. камандзіра А. Ф. Бардадына, нач. штаба І. І. Зіненкі і інш.), пра прарыў блакады ў час карнай аперацыі «*Веснавое свята*» (комплексы матэрыялаў пра 16 партыз. брыгад, якія ўдзельнічалі ў пра-

рыве, у т. л. фатаграфіі Герояў Сав. Саюза А. Ф. *Данукалава*, П. М. *Раманава*, І. М. *Цімчука*, М. А. *Ягорава*), пра дзейнасць партыз. шпіталяў, выратаванне лётчыкамі 105-га гвардз. авіяпалка 200 дзяцей Полацкага дзіцячага дома і інш. Прадстаўлены матэрыялы пра вызваленне Ушацкага р-на войскамі 1-га танк. корпуса і 6-й гвардз. арміі 1-га Прыбалт. фронту, пра ўдзел землякоў у вызваленні краін Усх. Еўропы і Берлінскай аперацыі 1945. Экспануюцца карціны «Ф. Ф. Дуброўскі і У. Е. Лабанок» (маст. М. Гуціеў) і «Подзвіг Надзі Касцючэнкі» (маст. М. Абрыньба). У «Партызанскай карціннай галерэі» выстаўлены карціны «Чапаеў у баі», «Выезд Чашніцкай брыгады «Дубава» на заданне», «Бой на бальшаку», «Бой каля в. Пышна» М. Абрыньбы, партрэты партыз. камандзіраў і партызан, малюнкі, лінагравюры, сатырычныя плакаты М. Гуціева, напісаныя ў гады Вял. Айч. вайны. *М. М. Кірпіч.*

**«УША́ЧСКИЙ ПАРТИЗА́Н»,** газета, орган парт. арг-цыі в/ч 107/18. Вядомы № 3 ад 15.6.1943 на рус. мове.

**УША́ЧЫ,** гар. пасёлак, цэнтр Ушацкага р-на, на р. Ушача. За 150 км на З ад Віцебска, за 45 км ад чыг. ст. Полацк. Аўтадарогамі звязаны з Мінскам, Віцебскам, Полацкам, Лепелем, Улай. 3.7.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў У. і раёне 2375 чал., у т. л. ў У. 735 чал. У гар. пасёлку і раёне дзейнічалі *Ушацкае партыйна-камсамольскае падполле.* Ушацкія падп. райкомы КП(б)Б (6.7.1942—29.6.1944) і ЛКСМБ (23.7. 1942—29.6.1944), партыз. брыгады 1-я Антыфашысцкая, 2-я Ушацкая імя Панамарэнкі, 16-я Смаленская, «За Савецкую Беларусь», імя ВЛКСМ, імя Варашылава, імя А. Ф. Данукалава, імя С. М. Кароткіна, імя Леніна (Віцебскай вобл.), імя Леніна (Віцебскай і Вілейскай абл.), імя ЦК КП(б)Б, імя Чапаева, Лепельская імя Сталіна, М. М. Нікіціна, Чашніцкая «Дубава», партыз. полк Смаленскі (гл. адпаведныя артыкулы); выдавалася падп. газ. «*Прымежны калгаснік*». У канцы вер. 1942 партызаны разграмілі ва У. варожы гарнізон (гл. *Ушацкі бой 1942*), ачысцілі ад гітлераўцаў Ушацкі і суседнія з ім раёны, у выніку была ўтворана Ушацкая, пазней *Полацка-Лепельская партызанская зона* з цэнтрам у У., створана партыз. камендатура (камендант М. Зуеў). У гар. пасёлку дзейнічалі партыз. тэлефонны вузел (меў 450 км ліній сувязі з брыгадамі і атрадамі зоны), электрастанцыя, лесазавод, шкіпінарна-дзягцярныя з-ды, якія выпрацоўвалі ружэйназмазачныя і запальныя сумесі, наладжана ганчарная вытворчасць і інш. З снеж. 1943 да крас. 1944 у У. дысладыраваліся штабы Полацка-Лепельскай аператыўнай групы ЦК КП(б)Б і БШПР, партыз. брыгады імя Чапаева, размяшчалася падп. друкарня. Зімой 1943—44 на лёдзе воз. Вячэлле дзейнічаў партыз. аэрадром, на які лётчыкі 105-га гвардз. авіяпалка даставілялі партызанам зброю, боепрыпасы, медыкаменты, вывозілі на Вял. зямлю параненых, хворых, у т. л. 200 дзяцей Полацкага дзіцячага дома. У час карнай аперацыі «Веснавое свята» 30.4.1944 У. захоплены гітлераўцамі. Вызвалены 29.6.1944 воінамі 1-га танк. корпуса (камандзір ген.-лейт. В. В. Буткоў) і 270-й стралк. дывізіі (ген.-маёр І. П. Бяляеў) 6-й гвардз. арміі 1-га Прыбалт. фронту ў ходзе *Полацкай аперацыі 1944*. У У. брацкія магілкі партызан, падпольшчыкаў і сав. воінаў, магіла ахвяр фашызму, на якіх пастаўлены помнікі, помнік на месцы партыз. аэрадрома, мемар. дошкі ў гонар Полацка-Лепельскай аператыўнай групы ЦК КП(б)Б і БШПР, партыз. брыгады імя Чапаева і падп. друкарні, партыз. тэлефоннага вузла сувязі. За 7 км ад У. мемар. комплекс *«Прарыў»*. Працуе *Ушацкі музей народнай славы.*



**ФАЛАЛЕ́ЕЎ** Ной Елісеевіч (н. 27.8. 1912, с. Слудка Вяцка-Палянскага р-на Кіраўскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1941. Скончыў Пермскі настаўніцкі ін-т (1937), Рэсп. парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1951). З 1929 рабочы, з 1937 на пед. рабоце. З чэрв. 1941 на Зах. фронце. З вер. 1941 кіраўнік падп. групы ў Полацкім р-не. У партызанах з мая 1942: камандзір атрада, у ліп.— жн. 1942 і кастр. 1942 — вер. 1943 камандзір, адначасова ў чэрв. — кастр. 1942 нач. штаба партызанскай брыгады 4-й Беларускай, з вер. 1943 у распараджэнні БШПР. Да 1969 на сав. і гасп. рабоце ў Віцебскай вобл.

**ФАМІ́Н** Яўхім Майсеевіч (15.1.1909, в. Калышкі Лёзненскага р-на — 30.6.1941), адзін з кіраўнікоў *Брэсцкай крэпасці абароны 1941*. Чл. КПСС з 1930. Скончыў Пскоўскую акругову парт.-сав. школу (1929). З 1932 у Чырв. Арміі. Удзельнік вызвалення Зах. Украіны ў 1939. З крас. 1941 нам. камандзіра па палітчасці 84-га стралк. палка 6-й Арлоўскай стралк. дывізіі, раскватараванага ў Брэсцкай крэпасці. 22.6.1941 арганізаваў абарону каля Холмскіх варот Цытадэлі. З 24.6.1941 нам. камандзіра па палітчасці зводнай баявой групы абаронцаў крэпасці. Цяжка паранены і кантужаны палкавы камісар Ф. расстраляны каля Холмскіх варот. Яго імем названы вуліцы ў Мінску (і 2 завулкі), Брэсце, Лёзне, швейная ф-ка ў Брэсце.

**ФАМІ́НЫХ** Яўген Іванавіч (24.12.1906, г. Дзяржынск Мінскай вобл.— 22.5. 1977), ген.-лейт. танк. войск (1945). Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1925. У Чырв. Арміі з 1928. Скончыў ваен. акадэміі механізацыі і матарызацыі РСЧА (1941), Генштаба

Я. М. Фамін. Я. І. Фаміных.



(1948). З 1941 на Паўн.-Зах., Зах., 1-м і 2-м Укр., 1-м Бел. франтах: камандзір танк. батальёна, палка, нач. штаба танк. брыгады, корпуса, камандзір танк. корпуса. Удзельнік баёў пад Ноўгарадам, Вязьмай, Ельняй, на Курскай дузе, Корсунь-Шаўчэнкаўскай аперацыі, вызвалення Беларусі, Польшчы. Вызначыўся пры фарсіраванні Одэра і ў Берлінскай аперацыі. Да 1960 на адказных пасадах у Сав. Арміі, у Ваен. акадэміі бранятанк. войск. Яго імем названа вуліца ў г. Дзяржынск.

**ФЕДЗЯЧЭ́НКА** Іван Паўлавіч (н. 5.5. 1909, в. Чырвоны Бераг Быхаўскага р-на), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Член КПСС з 1940. З 1931 у Чырв. Арміі. У пач. Айч. вайны на фронце, камандзір роты. У партызанах з лют. 1942, з крас. нач. штаба атрада, з крас. 1943 пам. камандзіра, аднначасова ў чэрв.— ліп. 1943 в. а. нач. штаба *партызанскай брыгады 11-й Быхаўскай,* у ліп.— ліст. 1943 нач. штаба, у ліст. 1943 — лют. 1944 камандзір *Быхаўскай ваенна-аператыўнай групы,* аднначасова чл. Быхаўскага падп. РК КП(б)Б. З 1944 на парт., сав. і гасп. рабоце.

**ФЕ́ШЧАНКА** Пётр Васілевіч (н. 3.7. 1922, с. Прышыб Крамянчугскага р-на Палтаўскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1945). Ген.-маёр (1965). Чл. КПСС з 1942. Скончыў 2-е Саратаўскае танк. вучылішча (1941), Харкаўскі пед. ін-т (1950). На фронце са жн. 1941. Капітан Ф. вызначыўся ў баях за вызваленне Віцебскай вобл. Танкавы батальён пад яго камандаваннем 25—27.6.1944 адбіваў контратакі ворага каля в. Смаляны Аршанскага

р-на і чыг. ст. Талачын, перарэзаў гітлераўцам шлях да адступлення па шашы і чыг. Орша — Мінск, захапіў 7 эшалонаў з грузам, 15 самаходных гармат, 3 процітанк. батарэі, 40 бронетранспарцёраў. У 1947—61 на парт. рабоце, з 1961 у органах КДБ і МУС. Жыве ў Харкаве.

**ФЁДАРАЎ** Ілья Марцінавіч (н. 20.6. 1911, в. Пятроўская Цярбунскага р-на Ліпецкай вобл.), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1940. Скончыў ун-т у Растове-на-Доне (1939). З 1927 рабочы. З чэрв. 1941 на Зах. фронце. У партызанах з сак. 1942: радавы, камісар атрада, у снеж. 1942— чэрв. 1944 камісар *партызанскай брыгады «Штурмавая»*, адначасова 2-і сакратар Заслаўскага падп. РК КП(б)Б. З 1944 на сав., прафс. і пед. рабоце, у 1963—71 дырэктар Мінскага абл. ін-та ўдасканалення настаўнікаў.


М. П. Фёдараў.


Я. П. Фёдараў.


А. А. Філімонаў.


А. А. Філіпенка.


М. С. Філіпоўскі.


Я. Ф. Філіпскіх.

**ФЁДАРАЎ** Мікалай Пятровіч (15.6. 1915, в. Кайвакса Ціхвінскага р-на Ленінградскай вобл.— 17.4.1944), удзельнік партыз. руху ў Мінскай вобл. Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1932. Скончыў 2-ю Ленінградскую арт. школу (1936), вучыўся ў Ваен. акадэміі імя Фрунзе. На фронце з 1941, удзельнік абароны Масквы. З ліп. 1943 да крас. 1944 нам. камандзіра разведвальна-дыверсійнага атрада «Дзімы» ў Мінскай вобл. Удзельнік падрыхтоўкі забойства генеральнага камісара Беларусі гаўляйтэра В. Кубэ. Загінуў у баі з карнікамі каля г. Хэлм (Польшча). Яго імем названа вуліца ў Маскве.

**ФЁДАРАЎ** Яўген Пятровіч (н. 28.12. 1911, Ленінград), двойчы Герой Сав. Саюза (1940, 1945), ген.-маёр авіяцыі (1957). Чл. КПСС з 1932. Скончыў Ваен.-тэарэтычную школу лётчыкаў (1932), Арэнбургскую школу лётчыкаў (1933), Ваен.-паветр. акадэмію (1948). Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. На фронце з ліп. 1941: камандзір эскадрыллі, нам. камандзіра авіяц. злучэння далёкіх бамбардзіроўшчыкаў. Вызначыўся пры бамбардзіроўцы войск праціўніка ў раёнах Смаленска, Арла, Курска, Стаўраполя, Севастопаля, Ленінграда, Віцебска, Мінска. Удзельнічаў у разгроме гітлераўскіх войск пад Масквой, Сталінградам, у Бабруйскай і Яска-Кішынёўскай аперацыях, у баях на тэр. Польшчы, Венгрыі, налётах на Берлін у 1942, у Берлінскай аперацыі. Зрабіў 178 баявых вылетаў. Да 1958 у Сав. Арміі, потым да 1973 у грамадз. авіяцыі. У Ленінградзе яму пастаўлены бронзавы бюст.

**ФІЛÁТАЎ** Пётр Міхайлавіч (1893—1941), ген.-лейт. (1940). Чл. КПСС з 1930. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1935). У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Пасля вайны на камандных пасадах у Чырв. Арміі. У Айч. вайну ў чэрв.— ліп. 1941 каманд. 13-й арміяй, войскі якой вялі *Магілёва абарону 1941*. Смяротна паранены ў баі.

**ФІЛІДÓВІЧ** Іосіф Юр'евіч (1874, в. Шаршні Дзятлаўскага р-на — 1942), удзельнік партыз. руху на тэр. Дзятлаўскага р-на, герой Вял. Айч. вайны. З першых дзён вайны ўключыўся ў барацьбу супраць акупантаў, дапамагаў чырвонаармейцам, якія трапілі ў акружэнне. Вясной 1942, калі ў Ліпічанскай пушчы з'явіліся першыя партыз. групы, разам з сынам Іванам стаў іх праваднікам і сувязным. Увосень 1942 дапамог партызанам Арлянскага атрада знайсці надзейнае месца для шпіталя — востраў сярод незамярзаючага балота, прыкладна за 4 км ад свайго хутара. Бацька і сын Філідовічы дастаўлялі ў шпіталь медыкаменты і прадукты, праводзілі па вядомай толькі ім патайной перапраўе параненых і вылечаных партызан. 16.12.1942 на хутары з'явіліся карнікі і пад пагрозай расстрэлу ўсёй сям'і патрабавалі ад гаспадара правесці іх да партыз. шпіталя. І. Ю. Філідовіч павёў атрад карнікаў у процілеглым напрамку, у непраходнае балота. Там гітлераўцы забілі патрыёта, многія з іх самі не выбраліся з багны. У г. п. Дзятлава яго імем названа вуліца, устаноўлены помнік (скульпт. А. І. Салятыцкі), у в. Ліпічанская Пушча — мемар. знак, прысвечаны подзвігу партыз. сувязнога.

**ФІЛІМÓНАЎ** Аляксандр Андрэевіч (н. 9.5.1918, в. Кучын Кармянскага р-на), Герой Сав. Саюза (1945). Доктар гіст. навук (1969), прафесар (1970). Чл. КПСС з 1943. Скончыў БДУ (1949). З 1943 на Сцяпным, 1-м і 2-м Укр. франтах, камандзір танк. ўзвода, роты. Вызначыўся ў баях на тэр. Германіі. З 16.4 да 11.5. 1945 рота на чале з ст. лейтэнантам Ф. фарсіравала р. Нэйсе і Шпрэе, знішчыла ачагі супраціўлення гітлераўцаў у адным з прыгарадаў Берліна. У баях з праціўнікам рота адбіла 10 контратак, знішчыла 12 танкаў і самаходных гармат, 11 палявых гармат, 35 кулямётных кропак, 20 грузавых аўтамашын і каля 500 гітлераўцаў. Прымаў удзел у вызваленні Прагі.

З 1952 на выкладчыцкай, з 1969 на навуковай рабоце. Распрацоўвае праблемы гісторыі БССР перыяду сацыяліст. будаўніцтва, Вял. Айч. вайны. Адзін з аўтараў і член рэдкалегіі трохтомнай кн. «Усенародная барацьба на Беларусі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны» (кн. 1—3 1983—85), адзін з аўтараў 5-га тома і чл. гал. рэдкалегіі пяцітомнай «Гісторыі Беларускай ССР» (1972—75).

**ФІЛІПАЎ** Уладзімір Іванавіч (н. 12. 12.1911, в. Стараселле Шклоўскага р-на), ген.-лейтэнант (1963). Заслужаны работнік культуры РСФСР (1968). Чл. КПСС з 1938. У Чырв. Арміі з 1929. Скончыў Аб'яднаную Бел. ваен. школу імя ЦВК БССР (1932), ін-т фізкультуры ў Ленінградзе (1960). Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну на Паўд., Паўд.-Зах., Закаўказскім, Паўн.-Каўказскім, 1-м і 2-м Прыбалт. франтах; камандзір танк. батальёна, нам. камандзіра, камандзір танк. брыгады, камандуючы бранятанк. і механіз. войскамі арміі. Пасля вайны на адказных пасадах у войску, ВНУ. У 1962—70 старшыня спартыўнага к-та Міністэрства абароны СССР.

**ФІЛІПЁНКА** Аляксей Апанасавіч (3.4. 1925, в. Бабічы Чачэрскага р-на — 21.8.1957), поўны кавалер ордэна

Славы. Чл. КПСС з 1944. З 1943 на 1-м, 2-м і 3-м Бел. франтах. Кулямётчык стралк. роты яфрэйтар Ф. вызначыўся: 24.2.1944 у баі за в. Вял. Канапліца (на Пн ад Рагачова) першы ўварваўся на ўскраіну вёскі, знішчыў агнявую кропку праціўніка, узяў у палон гітлераўца; 1.3.1944 у час штурму вышыні каля в. Азяраны (на Пн ад Рагачова) першы ўварваўся ў варожую траншэю, вынес з поля бою цяжка параненага камандзіра; 28.6. 1944 каля в. Букіна (на Пн ад Бабруйска) у баі з праціўнікам, што вырываўся з акружэння, знішчыў з аўтамата 12 гітлераўцаў; 25.2.1945 каля в. Ліліенталь (Усх. Прусія) за 2 гадз адбіў з байцамі 5 контратак праціўніка, замяніў камандзіра ўзвода, які выбыў са строю, паранены, не пакінуў поля бою. Пасля вайны жыў і працаваў у Калінінградзе.

**ФІЛІПО́ЎСКІ** Міхаіл Сяргеевіч (1.2. 1896, Баранавічы — 8.1.1956), ген.-лейтэнант (1945). Канд. ваен. навук (1948). Чл. КПСС з 1917. У арміі з 1915, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію Генштаба (1942). У Айч. вайну на Закаўказскім, Паўн.-Каўказскім, 1-м Бел., 1-м і 3-м Укр. франтах: камандзір стралк. корпуса, нач. штаба, нам. камандуючага, камандуючы арміяй. У 1945—50 выкладчык Ваен. акадэміі Генштаба.

**ФІЛІПСКІХ** Яўген Фёдаравіч (28.6. 1914, г. Марыупаль — 14.6.1953), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1939. Скончыў індустрыяльны ін-т (1939). З вер. 1941 у партызанах: камандзір групы, з ліп. 1942 камандзір атрада «Полымя», адначасова ў кастр. 1942 — ліп. 1944 чл. падп. Пухавіцкага РК КП(б)Б. З чэрв. 1943 камандзір *партызанскай брыгады «Полымя»*. Пасля вайны на парт. рабоце ў Мінску.

**ФЛЕ́ГАНТАЎ** Аляксей Канідзеевіч (16.3.1888, с. Алочы Нерчынска-Заводскага р-на Чыцінскай вобл.—11.3. 1943), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1919. У 1920—22 камандзір 1-й Амурскай дывізіі, камандуючы партыз. атрадамі Прымор'я. Пазней на гасп. і сав. рабоце ў Хабараўску, Кіеве, Маскве. У Айч. вайну ўдзельнічаў у арганізацыі партыз. руху ў Смаленскай і Маскоўскай абл. Ініцыятар стварэння і камандзір кав. партыз. атрада, які ў жн. 1942 накіраваны ў тыл ворага. У кастр. 1942 — сак. 1943 камандзір брыгады (гл. *Партызанская брыгада «За Радзіму» імя А. К. Флегантава)*. Загінуў у баі. У Чэрвені помнік Ф., яго імем названы вуліца і СШ № 2, вуліца ў в. Забалацце Маларыцкага р-на.

**ФЛЁРАЎ** Іван Андрэевіч (24.3.1905, в. Двурэчкі Ліпецкага р-на — 7.10. 1941), удзельнік баёў на Беларусі. Чл. КПСС з 1940. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У 1941 капітан, камандзір Асобнай эксперыментальнай батарэі рэактыўных установак («кацюш»), якая 14.7.1941 нанесла ўдары па ням.-фаш. захопніках на чыг. ст. Орша і па пераправах цераз Днязро і Аршыцу, потым у раёне Рудні, Смаленска, Ельні, Дарагабужа, Рослава, Спас-Дзямянска. Трапіўшы ў акружэнне, дывізіён прайшоў больш за 200 км па тылах ворага, у ноч на 7.10.1941 каля в. Багатыр Знаменскага р-на Смаленскай вобл. прыняў няроўны бой, у час якога большая частка асабістага складу, у т. л. камандзір батарэі, загінула, расстраляўшы ўвесь боезапас, сав. воіны падарвалі сакрэтную зброю. У Оршы яго імем названа вуліца, у гонар першага залпа рэактыўных мінамётаў пабудаваны мемар. комплекс *«Кацюша»*, у в. Пішчалава Аршанскага р-на Ф. пастаўлены помнік.

**ФО́ГЕЛЬ** Ян Янавіч (24.12.1898, нас. п. Дурз Гулбенскага р-на Латвійскай ССР — 9.7.1944), ген.-маёр (1944). Чл. КПСС з 1941. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1933). У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1943 на Бранскім, Цэнтр., Бел., 1-м Бел. франтах. Камандзір дывізіі Ф. вызначыўся ў *Беларускай аперацыі 1944*. З 24.6 да 8.7.1944 дывізія пад яго камандаваннем прайшла з баямі ад р. Друць да Навагрудка, вызваліла 250 населеных пунктаў, захапіла 51 гармату, 39 мінамётаў, 67 кулямётаў, 80 аўтамашын, узяла ў палон больш за 2800 ням. салдат і афіцэраў. Памёр ад ран. Пахаваны ў г. п. Дзятлава Гродзенскай вобл. Яго імем названы вуліцы ў г. Валміера, у Мінску, Дзятлаве (і завулак), в. Малюшычы Дзятлаўскага р-на; у г. п. Дзятлава пастаўлены помнік.

**ФОНД АБАРО́НЫ,** створаны ў СССР у гады вайны па ініцыятыве працоўных. З'яўляўся адным з самых масавых патрыятычных рухаў сав. людзей па аказанні *дапамогі фронту*. Складваўся з грашовых сродкаў і матэрыяльных каштоўнасцей, якія добраахвотна ўносілі сав. грамадзяне. Рух за стварэнне Ф. а. быў падтрыманы ЦК ВКП(б) і мясцовымі парт. органамі, ЦК КП(б)Б 6.8.1941 абавязаў парт., камсам. і прафсаюзныя арг-цыі падтрымаць і ўзначаліць ініцыятыву рабочых, калгаснікаў і інтэлігенцыі. З 1.8.1941 звесткі аб паступленні сродкаў у Ф. а. публікаваліся ў зводках Саўінфармбюро. З снеж. 1942 стаў масавым узнос сродкаў у фонд Чырв. Арміі на стварэнне ўзбраення. Працоўныя на асабістыя зберажэнні будавалі калоны танкаў, эскадрыллі самалётаў. У руху ўдзельнічалі ўсе слаі насельніцтва краіны. Збор сродкаў праводзіўся і на акупіраванай тэр. Беларусі. Да вясны 1943 насельніцтва і партызаны Беларусі сабралі на будаўніцтва самалётаў і бронецягнікоў «Савецкая Беларусь» 5 394 342 руб. (у т. л. партызаны — 606 000 руб.), 2100 руб. золатам і 1 240 000 руб. аблігацыямі. З восені 1943 да пач. 1944 насельніцтва і партызаны акупіраванай тэр. Беларусі перадалі ў фонд абароны каля 10 млн. руб. грашыма і аблігацыямі, больш за 13 кг золата, каля 90 кг серабра і інш. каштоўнасцей. 25.7. 1944 па ініцыятыве мінскага хлебаза-

І. А. Флёраў. Я. Я. Фогель.



вода «Аўтамат» пачаўся збор сродкаў на будаўніцтва авіяэскадрыллі і танк. калоны «За Савецкую Беларусь». Калгаснікі Мінскай вобл. разгарнулі збор сродкаў на будаўніцтва эскадрыллі «Мінскі калгаснік». Восенню 1944 працоўныя вызваленай рэспублікі сабралі 50 млн. руб. грашыма і аблігацыямі, сяляне здалі звыш плана больш за 3 млн. пудоў хлеба і 25 млн. пудоў бульбы. *У. І. Лемяшонак.*

**ФРАЛО́Ў** Васіль Міхайлавіч (24.8. 1904, Магілёў — 25.11.1971), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1926. Скончыў Камуніст. ун-т Беларусі (1931), Рэсп. парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1952). З 1932 на парт. і адм.-гасп. рабоце, з 1940 1-ы сакратар Сіроцінскага РК КП(б)Б. У жн. 1941 накіраваны ЦК КП(б)Б у тыл ворага: з кастр. камандзір групы, у чэрв. 1942 камісар атрада, у чэрв. 1942 — сак. 1943 — *партызанскай брыгады імя С. М. Каротніка*, адначасова ў кастр. 1941 — сак. 1943 сакратар Сіроцінскага падп. РК КП(б)Б. З сак. 1943 заг. сектара ЦК КП(б)Б, сакратар Магілёўскага абкома, Шклоўскага РК КП(б)Б. У 1952—60 на парт. і сав. рабоце.

**ФРАНТАВЫ́Я БРЫГА́ДЫ,** патрыятычны рух працаўнікоў прамысловасці, транспарту, сельскай гаспадаркі сав. тылу за датэрміновае выкананне планаў забеспячэння фронту баявой тэхнікай, зброяй, боепрыпасамі, прадуктамі і абмундзіраваннем. Узніклі па ініцыятыве камсамола. У ліп.-жн. 1941 па ініцыятыве маладых рабочых Горкага і Свярдлоўска пачаўся рух «двухсотнікаў» за выкананне норм не менш чым на 200 % — адну норму за сябе, другую за таварыша, які пайшоў на фронт. У той жа

час узніклі камсам.-маладзёжныя брыгады. У вер. 1941 дзве перадавыя брыгады — на Горкаўскім аўтазаводзе і Уральскім з-дзе цяжкага машынабудавання — назвалі сябе «франтавымі». Услед за імі Ф. б. ўзніклі на тысячах прамысловых і с.-г. прадпрыемстваў краіны. Першыя брыгады абвяшчалі сябе «франтавымі» самі, у далейшым гэта званне надавалася на сходах рабочых ці грамадскімі арг-цыямі лепшым брыгадам пры выкананні імі плана не менш чым на 150 % на працягу 2 апошніх месяцаў пры высокай якасці прадукцыі, эканоміі матэрыялаў, высокай працоўнай дысцыпліне. Члены Ф. б. абавязаны былі пастаянна павышаць сваю кваліфікацыю, памагаць таварышам, абучаць навічкоў, быць рацыяналізатарамі, атрымліваць ваен. спецыяльнасць і ўдзельнічаць у грамадскім жыцці. Зменныя заданні яны перавыконвалі пад дэвізам: «Фронту трэба — зробім!», «У працы — як у баі!», «У тыле — як на фронце!», часта, выконваючы тэрміновыя ваен. заказы, працавалі па 14—18 гадз у суткі. Многія члены Ф. б. шляхам мадэрнізацыі станкоў і ўдасканалення інструментаў даводзілі штодзённую выпрацоўку да 20—27 зменных норм. Ф. б. былі згуртаванымі, шматнацыянальнымі калектывамі. Сярод іх членаў былі і эвакуіраваныя 1,5 млн. грамадзян Беларусі, многія з якіх працавалі на прадпрыемствах БССР, вывезеных у сав. тыл у 1941. На кожным з іх у гады вайны былі Ф. б. Першай такой брыгадай на з-дзе «Гомсельмаш», дзе працавалі 1500 маладых рабочых ва ўзросце 17—20 гадоў, стала брыгада Ф. Мельнікава. Яна складалася з 35 токараў і сістэматычна выконвала зменныя нормы на 200—250 %. Ф. б. ствараліся і на прадпрыемствах, якія ў 1943—44 пачалі работу на вызваленай ад ням.-фаш. захопнікаў тэр. БССР. Толькі на прадпрыемствах Гомеля ў 1945 у складзе Ф. б. працавалі 16 тыс. маладых рабочых. У 1943—44, калі фронт патрабаваў папаўнення, а частка кваліфікаваных рабочых і ІТР з з-даў і ф-к Масквы, Урала, Сібіры, Паволжа была адкамандзіравана на аднаўленне разбураных прадпрыемстваў Беларусі, Украіны, Прыбалтыкі, Расіі, Ф. б. датэрмінова выконвалі вытворчыя планы пад лозунгам: «З меншай колькасцю рабочых — больш прадукцыі фронту». Да канца вайны налічвалася каля 155 тыс. Ф. б., яны аб'ядноўвалі больш як 1 млн. працоўных. *А. С. Харэбін.*

**«ФРАНЦ»** («Franz»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць *партызанскай брыгады «За Радзіму» імя А. К. Флегантава, партызанскай брыгады 1-й Асіповіцкай, партызанскай брыгады 1-й Мінскай* і мясцовага насельніцтва ў Бярэзінскім, Асіповіцкім, Пухавіцкім, Чэрвеньскім р-нах у студз. 1943.

Праводзілася сіламі вышэйшага начальніка СС і ням. паліцыі групы армій «Цэнтр», ахоўных і франтавых часцей вермахта. Карнікі наступалі з Пухавіч, Чэрвеня, Беразіно і Асіповіч. Некалькі дзён партызаны стрымлівалі націск карнікаў. Цяжкія баі адбыліся каля в. Іванічы, Зенанполле (Чэрвеньскі р-н), Турын, Пудзецкая Слабада (Пухавіцкі р-н), Каменічы, Пагарэлас, Лочын, р. п. Градзянка (Асіповіцкі р-н). 1-я Мінская брыгада пазбегла акружэння, перасекла шашу Мінск — Магілёў і выйшла на Пн Чэрвеньскага р-на да воз. Пясочнае. Астатнія брыгады разам з мясцовым насельніцтвам, якое ратавалася ад карнікаў, былі блакіраваны ў Градзянскім лесе. 7 студз. створана група прарыву на чале з камандзірам 752-га атрада партыз. брыгады «За Радзіму» імя Флегантава В. І. *Лівенцавым.*

8 студз. партызаны прарвалі блакаду паміж Градзянкай і в. Ляды (Чэрвеньскі р-н), нанеслі праціўніку цяжкія страты ў жывой сіле, захапілі 7 кулямётаў, 17 тыс. патронаў і інш. трафеі, фарсіравалі Бярэзіну каля в. Якшыцы (Бярэзінскі р-н), вывелі з блакады больш за 1 тыс. мясцовых жыхароў і выйшлі ў Клічаўскія і Бярэзінскія лясы. У час карнай аперацыі гітлераўцы расстралялі, павесілі і спалілі жывымі 2025 сав. грамадзян, спалілі вёскі Ляды (загубілі 45 чал.), Каменка (10 чал.) Пухавіцкага р-на, Вял. Гарожа і пас. Май (270 чал.), *Бортнае*, Брыцалавічы (676 чал.), Буда (42 чал.), Вярбілава (45 чал.), Градзянка і Янаўка (11 чал.), *Макаўе*, Межнае (86 чал.) Асіповіцкага р-на і інш. На катаржныя работы ў Германію вывезлі больш за 1 тыс. чал., захапілі 2400 галоў жывёлы, 60 т збожжа. Карту гл. на стар. 591. *В. С. Лазебнікаў, У. С. Пасэ.*

**«ФРЫДА»** («Frida»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць *партызанскай брыгады «Разгром», партызанскай брыгады «За Савецкую Беларусь», партызанскай брыгады імя М. А. Шчорса* і мясцовага насельніцтва ў Барысаўскім, Бярэзінскім, Смалявіцкім і Чэрвеньскім р-нах у ліст. 1942, састаўная частка агульнага плана гітлераўскага камандавання па ліквідацыі партыз. руху на тэр. генеральнай акругі «Беларусь» улетку і ўвосень 1942.

Праводзілася сіламі 8-га і 10-га палкоў 1-й матарызаванай брыгады СС, асобага батальёна СС Дырлевангера, спец. каманд паліцыі бяспекі і СД, жандармерыі пры падтрымцы танкаў і артылерыі. Карнікі, што наступалі з Барысава, Смалявіч, Чэрвеня і Бярэзіна, імкнуліся акружыць партызан у раёне азёр Чырвонае, Рыбачнае, Пясочнае і знішчыць іх. Пасля цяжкага бою каля в. Слабада партыз. брыгады пад кіраўніцтвам *Мінскага падпольнага міжрайкома КП(б)Б* зрабілі баявы манеўр і выйшлі з акружэння.

У час карнай аперацыі гітлераўцы загубілі 136 мясцовых жыхароў, захапілі 1280 т збожжа, 630 галоў жывёлы, разрабавалі вёскі Бортнікі, Забалоцце, Замосце, Кленнік, Старынка, Стрыева, Туры (Смалявіцкі р-н), Дубнікі (Чэрвеньскі р-н), Пасека (Барысаўскі р-н) і інш., 1600 жыхароў гэтых вёсак адправілі на прымусовыя работы ў спец. лагер у Смалявічах. *В. С. Лазебнікаў, У. С. Пасэ.*

**«ФРЫЦ»** («Fritz»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партыз. брыгад «Спартак», «За Радзіму», Ф. С. Шляхтунова (пазней імя Даватара), імя Варашылава, імя Гастэлы, імя Жукава, імя Ракасоўскага, асобных атрадаў партыз. брыгад «Жалязняк», «Народныя мсціўцы», імя С. М. Кароткіна, спец. партыз. атрада «Сокал» (гл. адпаведныя артыкулы) і мясцовага насельніцтва ў Браслаўскім, Відзаўскім, Глыбоцкім, Міёрскім, Пастаўскім, Шаркоўшчынскім, Дунілавіцкім р-нах у вер.— кастр. 1943.

Праводзілася сіламі ўсх. баявой групы брыгадэнфюрэра СС Гарма, паўд. групы обергрупенфюрэра СС Мюлера, зах. групы начальніка пагранічнай аховы т. зв. генеральнай акругі «Літва» Гахтэля. паўн. групы брыгадэнфюрэра СС Шрэ-




дэра. Баявыя групы былі сфарміраваны з ням. паліцэйскіх палкоў і батальёнаў, спец. танк., арт. авіяцыйных падраздзя-

ленняў, часцей пагранічнай аховы т. зв. генеральных акруг «Беларусь», «Літва», «Латвія». Усх. група складалася з 2 паліцэйскіх палкоў, 254-га матарызаванага батальёна, 2 арт. дывізіёнаў, 11-й роты сувязі, ням. жандармерыі і паліцыі. Паўн. групе, акрамя 16-га паліцэйскага палка, былі прыдадзены 2-я авіягрупа і танк. егерская рота. 24 вер. карнікі пачалі акружаць вял. тэрыторыю па лініі: воз. Дрысвяты — усх. бераг воз. Аболе — зах. бераг воз. Богінскае — в. Казяны — усх. бераг воз. Вял. Швакшта — в. Занарач — Чарэмшыцы — Крывічы — Параф'янава — г. Глыбокае — в. Ручай — Наўгароды — Міёры — г. п. Друя — воз. Дрысвяты. Намнога большыя сілы праціўніка вымусілі партызан адысці з блакіраваных масіваў. Пры адступленні партызаны мініравалі дарогі, вялі засадныя баі, у некалькіх месцах прарвалі акружэнне і выйшлі ў суседнія раёны Віцебскай вобл. за чыгунку Полацк — Маладзечна. У канцы кастр.— пач. ліст. партызаны вярнуліся на ранейшыя месцы дыслакацыі.

За час аперацыі паводле няпоўных звестак карнікі загубілі 509 мясцовых жыхароў, вывезлі на катаргу ў Германію 12 тыс. чал., у т. л. 1708 дзяцей, спалілі 87 вёсак, у т. л. Бабылі (загубілі 25 чал.), Браслаўская Лука (17 чал.), Быкоўшчына (29 чал.), Гайлешы (24 чал.), Грабішкі (11 чал.), Дзегцяры (12 чал.), Забор'е (12 чал.), Рудава (12 чал.), Стайкі (59 чал.) Браслаўскага р-на, Кеўлічы (28 чал.), Стахоўскія (49 чал.) Пастаўскага р-на, Сухавежа (60 чал.) Міёрскага р-на, Еды (510 чал.) Шаркоўшчынскага р-на і інш. Гітлераўцы захапілі 36 тыс. галоў жывёлы, 1608 ц збожжа, 4104 ц бульбы, 1111 ц сена, саломы і гароднічы. Гітлераўскае камандаванне карную аперацыю «Ф.» прыраўноўвала да вял. баявой аперацыі на фронце. Усім яе ўдзельнікам былі выплачаны «франтавыя» і ўзнагарода «за ўдзел у баях».

*В. С. Лазебнікаў, У. С. Пасэ.*

**ФУ́РСАЎ** Васіль Ягоравіч (10.3.1920, в. М. Хутары Краснапольскага р-на Магілёўскай вобл.— 17.11.1943), Герой Сав. Саюза (1943). З 1941 на фронце. Удзельнік абароны Кіева, Данбаса, Растова-на-Доне, Паўн. Каўказа. Старшына роты Ф. вызначыўся ў час Керчанска-Эльтыгенскай дэсантнай аперацыі ў ліст. 1943. У складзе перадавога атрада пераправіўся цераз Керчанскі праліў, высадзіўся ў раёне пас. Эльтыген, заглушыў варожую агнявую кропку, што садзейнічала паспяховай пераправе дэсантнікаў. У баях на плацдарме з яго ўдзелам адбіта некалькі варожых контратак. Памёр ад ран. Яго імем названа вуліца ў г. Лісічанск Варашылаўградскай вобл., дзе ён жыў.

**ФЯДЗЮ́НІНСКІ** Іван Іванавіч (30.7.1900, в. Гілёва Тугулымскага р-на Свярдлоўскай вобл.— 17.10.1977), Герой Сав. Саюза (1939), ген. арміі (1955), Герой МНР (1975). Чл. КПСС з 1930. У Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз. вайны. З 1941 на Зах., Ленінградскім, Волхаўскім, Бранскім, Бел., 2-м Прыбалт., 2-м Бел. франтах: камандзір корпуса, камандуючы арміяй, нам. камандуючага войскамі франтоў. Удзельнік абароны і прарыву блакады Ленінграда, баёў пад Ціхвінам, Ржэвам, Курскай бітвы, *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943*, Усх.-Прускай і Берлінскай аперацый. Войскі 11-й арміі пад яго камандаваннем 26.11.1943 вызвалілі Гомель. Пасля вайны камандуючы ваен. акругамі, нам. і 1-ы нам. галоўнакамандуючага Групай сав. войск у Германіі. З 1965 ваен. інспектар-саветнік Групы ген. інспектараў Міністэрства абароны СССР. Дэп. ВС СССР у 1958—66. Ганаровы грамадзянін Гомеля. Аўтар кніг «Паднятыя па трывозе» (2 выд. 1964), «Дысцыпліна — аснова боегатоўнасці» (2 выд. 1969).



В. Я. Фурсаў.



І. І. Фядзюнінскі.



Л. С. Хадановіч.



С. Дз. Хадневіч.



**ХАВА́НШЧЫНА,** мемарыяльны комплекс у лясным урочышчы Хаваншчына каля в. Корачын Івацэвіцкага р-на. Створаны ў 1971. Уключае 4 драўляныя хаты, 2 зямлянкі, калодзеж, «лясную школу» (некалькі самаробных сталоў, лаўкі і школьная дошка на каржакаватым ствале дрэва). Устаноўлены шчыт з тэкстам Прысягі бел. партызана і вял. валун з памятным надпісам. У 1943—44 у Х. базіраваліся Брэсцкія падп. абкомы КП(б)Б і ЛКСМБ (гл. адпаведныя артыкулы), штаб *Брэсцкага партызанскага злучэння*, рэдакцыя і друкарня газ. *«Заря»*.

**ХАДАНО́ВІЧ** Леў Сяргеевіч (н. 15.11.1923, в. Струмень Кармянскага р-на), поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПСС з 1952. У Айч. вайну з 1942 падрыўнік *партызанскай брыгады 1-й Гомельскай*, з 1943 на фронце. Пам. камандзіра ўзвода разведкі ст. сяржант Х. вызначыўся ў баях за вызваленне Беларусі і Польшчы.

У ноч на 22.7.1944 у тыле праціўніка знішчыў 2 варожых карэкціроўшчыкаў, разведаў агнявыя сродкі ворага; у ноч на 1.12.1944 у тыле ворага з узводам разведчыкаў пранік у размяшчэнне абароны праціўніка, закідаў гранатамі бліндаж, знішчыў кулямёт, узяў у палон 2 гітлераўцаў; 13.2.1945 у раёне Гдыні з групай разведчыкаў захапіў «языка» і каштоўныя звесткі пра абарону ворага. Жыве ў Пінску.



Мемарыяльны комплекс ва ўрочышчы **Хаваншчына.** Зямлянкі.

**ХАДНЕ́ВІЧ** Станіслаў Дзмітрыевіч (10.12.1926, в. Саколіна Талачынскага р-на — 15.1.1945), герой Вял. Айч. вайны. Чл. ВЛКСМ. З вер. 1943 на Варонежскім, 2-м Укр. франтах. Камсорг батарэі арт. палка яфрэйтар Х. вызначыўся ў баях за Будапешт. 15.1.1945 у час штурму варожага апорнага пункта ў рашаючы момант кінуўся на варожы кулямёт і закрыў яго сваім целам. Пасмяротна ўзнаг. ордэнам Айч. вайны II ступені. Пахаваны ў Будапешце. У в. Аннаўка Дабрапольскага р-на Данецкай вобл., дзе жыў Х., яго імем названа вуліца.

**ХАДЫ́КА,** вёска на тэр. Салігорскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 5 км на ПдЗ ад в. Загор'е Новаця-

рушскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 138 чал. У чэрв. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 136 жыхароў, у т. л. каля 80 дзяцей, вёску (23 двары) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1968 на месцы вёскі пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

(гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«Красное знамя»*. Вызвалены 29.6.1944 воінамі 9-й гвардз. мех. брыгады (падпалк. А. Ф. Сакалоў) 5-й арміі 3-га Бел. фронту ў час Бел. аперацыі. У Х. брацкая магіла сав. воінаў, магілы ахвяр фашызму, сав. ваеннапалонных, на іх устаноўлены помнікі; помнік землякам.

**ХАЛЯЎКА** (Халяўкін) Мікалай Аляксеевіч (н. 23.12.1916, в. Івакі



Г. М. Халасцякоў. М. А. Халяўка (Халяўкін). У. А. Хамчаноўскі. С. І. Харламаў. В. З. Харужая. А. К. Харчанка.

Добрушскага р-на), Герой Сав. Саюза (1945). У 1930—37 працаваў у саўгасе на радзіме. У Чырв. Арміі з 1937. На фронце з чэрв. 1941, вадзіцель самаходнай арт. устаноўкі сяржант Х. вызначыўся пры вызваленні Закарпацкай Украіны. 2.12.1944 закідаў гранатамі варожы дзот, агнём з якога сав. пяхота была адрэзана ад самаходных гармат. 30 варожых салдат выйшлі з дзота, каб здацца ў палон, убачыўшы перад сабой аднаго воіна, яны паспрабавалі яго знішчыць, прастрэлілі абедзве нагі. Паранены баец знішчыў з аўтамата 28 гітлераўцаў, 2 захапіў у палон. Да 1976 працаваў у калгасе на радзіме.

**ХАЛАСЦЯКОЎ** Георгій Мікітавіч (20.7. 1902, Баранавічы — 21.7.1983), віцэ-адмірал (1945). Герой Сав. Саюза (1965). Чл. КПСС з 1920. Скончыў Вышэйшае ваен.-марское гідраграфічнае вучылішча (1925), Ваен. акадэмію Генштаба (1950). У Чырв. Арміі з 1919, у ВМФ з 1921. Удзельнік грамадз. вайны. Незаконна рэпрэсіраваны, напярэдадні вайны рэабілітаваны. З чэрв. 1941 нач. аддзела падводнага плавання Чарнаморскага флоту, камандзір Наварасійскай ваен.-марской базы, камандуючы Дунайскай ваен. флатыліяй. Удзельнік абароны Крыма, Каўказа, вызвалення Балгарыі, Румыніі, Югаславіі, Венгрыі, Чэхаславакіі, Аўстрыі. Да 1965 на камандных пасадах у флоце, да 1969 у апараце Міністэрства абароны СССР. Ганаровы грамадзянін Баранавіч, Геленджыка, Браціславы. Яго імем названа вуліца ў Баранавічах.

**ХАЛОПЕНІЧЫ,** гар. пасёлак у Крупскім р-не. За 34 км на ПнЗ ад Крупак, 28 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Мінск — Орша. У 1935—60 цэнтр раёна. 6.7.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў Х. і раёне 2925 чалавек. У верасні 1941 партызаны пад камандаваннем Ц. Е. Ермаковіча зрабілі напад на ням. камендатуру ў Х. У гар. пасёлку і раёне дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б (20.10.1942—28.6.1944) і ЛКСМБ (30.11.1942—28.6.1944), партыз. брыгады «Буравеснік», імя Кірава, імя Панамарэнкі, 1-я імя Заслонава, М. П. Гудкова, Чашніцкая «Дубава», Лёзненская, 1-я Смаленская, Багушэўская (2-га складу), 1-я Беларуская (2-га складу), 2-я імя Заслонава, асобны атрад «Баец»

**ХАМЧАНОЎСКІ** Уладзімір Антонавіч (1920, в. Пірагі Расонскага р-на — 19.12.1942), удзельнік партыйна-камсамольскага падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. Герой Сав. Саюза (1965). Чл. ВЛКСМ. Скончыўшы Аршанскі настаўніцкі ін-т (1939), настаўнічаў у Расонскім р-не. Са жн. 1941 чл. падп. групы П. М. Машэрава *Расонскага партыйна-камсамольскага падполля.* З крас. 1942 нам. камандзіра па разведцы партыз. атрада імя Шчорса *партызанскай брыгады імя К. К. Ракасоўскага.* Каля в. Гліснаўка Полацкага р-на ў ліку 30 партызан трапіў на засаду, партызаны прынялі бой з 500 гітлераўцамі. Прыкрываючы адыход групы, знішчыў 15 фашыстаў, каб не трапіць у рукі ворага, застрэліўся. У Мінску каля школы № 101 устаноўлены бюст героя. Яго імя прысвоена Клясціцкай сярэдняй школе Расонскага р-на; у в. Пірагі пастаўлены помнік, на месцы дома, дзе нарадзіўся,— стэла.

**ХАРКАЎСКА-ВІЦЕБСКАЯ СТРАЛКОВАЯ ДЫВІЗІЯ** гвардзейская Чырванасцяжная ордэна Леніна. Сфарміравана ў кастр. 1918 як 23-я стралк. дывізія (першы нач. дывізіі П. К. Міронаў). Удзельнічала ў грамадз. вайне. Найменне «Харкаўскай» прысвоена ў 1922 у сувязі з прыняццем над ёю шэфства працоўнымі Харкава. Узнагароджана ордэнамі Чырв. Сцяга (1921) і Леніна (1932). Напярэдадні Айч. вайны дыслацыравалася ў Прыбалт. ваен. акрузе, складалася з 3 стралк. і 2 арт. палкоў. У бой уступіла 22.6. 1941 на З ад Каўнаса ў складзе 11-й арміі Паўн.-Зах. фронту. Вяла абарончыя і наступальныя баі ў складзе 27-й, 3-й ударнай, 34-й і 53-й армій на Паўн.-Зах. фронце. З жн. 1942 на Сталінградскім і Данскім франтах, удзельнічала ў Сталінградскай бітве ў складзе 1-й гвардз., 21-й, 4-й танк. і 65-й армій. 1.3.1943 пераўтворана ў 71-ю гвардз. стралк. дывізію. З лют. 1943 у складзе 21-й (з крас. 1943 6-й гвардз.) арміі. У ліп.— вер. 1943 удзельнічала ў Курскай бітве і вызваленні Левабярэжнай Украіны. З канца 1943 у складзе 1-га Прыбалт. фронту У ліст.— снеж. 1943 вяла наступальныя баі на полацкім напрамку. Летам 1944 дывізія ў складзе 6-й гвардз. і (часова) 43-й армій удзельнічала ў *Беларускай аперацыі 1944.* У перыяд *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944* вызначылася ў баях, якія садзейнічалі вызваленню войскамі 43-й арміі 1-га Прыбалт. фронту і 39-й арміі 3-га Бел. фронту Віцебска (26.6.1944), ёй нададзена ганаровае найменне «Віцебскай» (10.7.1944). Увосень 1944 удзельнічала ў Рыжскай і Мемельскай аперацыях, да канца вайны — у блакадзе ням.-фаш. групоўкі войск на Курляндскім паўвостраве. За подзвігі ў баях з фаш. захопнікамі некалькі тысяч воінаў дывізіі ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР, 18 з іх прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

Камандзіры: ген.-маёр В. Ф. Паўлаў (чэрв. 1941), ген.-маёр С. Г. Гарачаў (чэрв.— жн. 1941), палк. А. М. Гарайнаў (жн.— вер. 1941), палк., з 1.3.1943 ген.-маёр П. П. Вахрамееў (вер. 1941— ліст. 1942 і студз.— крас. 1943), палк., з 15.9.1943 ген.-маёр І. П. Сівакоў

(снеж. 1942, крас. 1943 — студз. 1944 і чэрв.— ліп. 1944), палк. М. І. Бабахін (студз.— чэрв. 1944), палк. А. І. Іванчанка (ліп.— жн. 1944), ген.-маёр Дз. С. Курапаценка (жн.— вер. 1944), палк. Н. Н. Ложкін (вер. 1944 — студз. 1945), падпалк. Г. А. Іназемцаў (студз. 1945 — да канца вайны). *М. І. Камінскі.*

**ХАРЛА́МАЎ** Сямён Ільіч (н. 30.4.1921, г. Красны Кут Саратаўскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1945), ген.-палк. авіяцыі (1975). Заслужаны ваен. лётчык СССР (1972). Чл. КПСС з 1942. Скончыў ваен. авіяц. школу пілотаў (1942), Ваен.-паветр. акадэмію (1955), Ваен. акадэмію Генштаба (1961). На фронце з мая 1942. У час *Беларускай аперацыі 1944* камандзір эскадрыллі Х. праводзіў разведку ліній варожай абароны каля рэк Проня і Бася. 26—27.6.1944 выявіў скопішча адступаючых ням. войск, разведаў сілы праціўніка на правым беразе Дняпра. З 1945 на адказных пасадах у ВПС, з 1973 нам. старшыні ЦК ДТСААФ СССР па авіяцыі.

**ХАРЛА́НАЎ** Фёдар Сямёнавіч (н. 19.5. 1913, с. Крэпасць-Узень Новаузенскага р-на Саратаўскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1940. У 1935—37 і з 1940 у Чырв. Арміі. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну з чэрв. 1941 на Зах. фронце. У партызанах з жн. 1942, камандзір узвода, атрада, у студз.— ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады імя П. К. Панамарэнкі* Мінскай вобл. З 1945 на сав. рабоце ў Мінску, з 1946 на сав. і гасп. рабоце ў Саратаўскай вобл.

**ХАРУ́ЖАЯ** Вера Захараўна (падп. псеўданім Г. С. Карнілава; 27.9. 1903, Бабруйск — 4.12.1942), дзеяч рэв. руху ў Зах. Беларусі, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў *Віцебскага партыйна-камсамольскага падполля* ў Вял. Айч. вайну. Герой Сав. Саюза (1960). Чл. КПСС з 1921. Скончыла Цэнтр. сав.-парт. школу ў Мінску (1923). У 1920 удзельнічала ў барацьбе супраць бандаў Булак-Балаховіча. З 1924 сакратар ЦК КСМЗБ, чл. ЦК КПЗБ, чл. ЦК камсамола Польшчы. За рэв. дзейнасць у 1925 арыштавана ўладамі бурж. Польшчы. У выніку абмену з 1932 у Мінску, з 1935 на Балхашбудзе. У 1939—41 на парт. рабоце ў Целяханах, Пінску. У пач. Айч. вайны партызанка атрада В. З. Каржа. З вясны 1942 у апараце ЦК КП(б)Б у Маскве. У вер. 1942 на чале групы з 17 чал. накіравана ў акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі Віцебск. Стварыла і ўзначаліла падп. групу. У складаных умовах і без дакументаў і явак перадавала камандаванню Чырв. Арміі і партызанам звесткі пра ворага. 13.11.1942 арыштавана, пасля катаванняў загублена. Яе імем названы вуліцы, плошчы, школы ў Мінску, Бабруйску, Брэсце, Віцебску, Гродне, Мазыры, у інш. гарадах і вёсках Беларусі, а таксама цеплаход; устаноўлены помнікі і мемар. дошкі ў Мінску, Бабруйску, Брэсце, Віцебску, Мазыры, Пінску, Пружанах і інш.

**ХАРЧАНКА** Аляксандр Карнеевіч (5.12.1918, в. Кішчына Слабада Барысаўскага р-на — 12.8.1944), Герой Сав. Саюза (1945). На фронце з 1942. Разведчык старшына Х. вызначыўся ў баях на подступах да Магілёва. 27.6.1944 у складзе групы з 6 чал. пераправіўся цераз Дняпро каля в. Буйнічы, група захапіла плацдарм, знішчыла агнявыя кропкі праціўніка, чым садзейнічала пераправе батальёна. Х. першы ўварваўся ў вёску і ўзняў чырв. сцяг. Загінуў у баі на тэр. Польшчы. Яго імем названы вуліца і школа ў г. Ужур Краснаярскага краю.

**ХАРЫН** Цімафей Дзмітрыевіч (н. 10.6. 1905, с. Барысаўка Екацярынаслаўскага павета), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Вілейскай вобл. Чл. КПСС з 1931. З 1932 на парт. і гасп. рабоце ў Запарожжы. З 1940 у Чырв. Арміі. У партызанах з мая 1942: арганізатар партыз. групы, камісар атрада, у жн.— снеж. 1943 *партызанскай брыгады імя С. М. Будзённага* Вілейскага партыз. злучэння. У 1944—69 на сав., гасп. і прафс. рабоце.



Помнік В. З. Харужай у Віцебску.

**ХАТЫ́НЬ,** вёска на тэр. Лагойскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 54 км на ПнУ ад Мінска, за 5 км ад шашы Мінск — Лепель у Каменскім сельсавеце. Перад вайной у ёй жыло 156 чал. 22.3.1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 149 жыхароў, у т. л. 75 дзяцей, вёску (26 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1969 на месцы вёскі адкрыты мемар. комплекс Хатынь — філіял Бел. дзярж. музея гісторыі Вял. Айч. вайны.

**ХАТЫ́НЬ,** мемарыяльны архіт.-скульпт. комплекс на ўшанаванне памяці жыхароў в. Хатынь і інш. бел. вёсак, знішчаных ням.-фаш. акупантамі разам з насельніцтвам у 1941—44. Створаны на 54-м км ад Мінска, за 5 км ад шашы Мінск — Віцебск, на месцы былой в. Хатынь Лагойскага р-на. Адкрыты 5.7.1969 у дні святкавання 25-годдзя вызвалення Беларусі ад ням.-фаш. захопнікаў. Аўтары комплексу: арх. Ю. Градаў, В. Занковіч, Л. Левін, скульпт. С. Селіханаў (Ленінская прэмія 1970). Мемарыял займае плошчу 50 га. Комплекс паўтарае планіроўку б. вёскі і складаецца з асобных фрагментаў. У цэнтры ўзвышаецца бронзавая скульптура Няскоранага чалавека (выш. 6 м) з забітым хлопчыкам на руках. Побач самкнёныя гранітныя пліты нагадваюць дах адрыны, у якой ням.-фаш. карнікі спалілі жыхароў вёскі. На брацкай магіле Вянок памяці з белага мармуру са словамі наказу мёртвых жывым: «Людзі добрыя, помніце: мы любілі жыццё і Радзіму нашу, і Вас, дарагія. Мы згарэлі жывымі ў агні. Наша просьба да ўсіх: хай жалоба і смутак абернуцца ў мужнасць і сілу,



Мемарыяльны комплекс **Хатынь.** Стэлы ў выглядзе комінаў са званамі.

каб змаглі ўвекавечыць Вы мір і спакой на Зямлі. Каб нідзе і ніколі ў віхры пажараў жыццё не ўмірала!». З другога боку Вянка адказ жывых загінуўшым: «Родныя Вы нашы. У смутку вялікім схіліўшы галовы, стаім перад Вамі. Вы не скарыліся лютым забойцам у чорныя дні фашысцкай навалы. Вы смерць прынялі, ды полымя сэрцаў Вашай любові да Савецкай Радзімы навек незгасальна. Памяць пра Вас у насназаўсёды, як неўміручая наша зямля і як вечна яркае сонца над ёю!». Былая вясковая вуліца выкладзена шэрымі (пад колер попелу) жалезабетоннымі плітамі. На месцы кожнага спаленага дома — вянок зруба з шэрага жалезабетону, унутры яго — абеліск у выглядзе коміна, на якім дошка з прозвішчамі і імёнамі спаленых жыхароў дома, наверсе абеліска — звон; каля кожнага вянка зруба — жалезабетонная брамка. На месцы 6. вясковых калодзежаў — мемар. знакі. На Могілках вёсак — 185 урнаў з зямлёй, прывезенай са спаленых разам з жыхарамі і не адноўленых вёсак Беларусі. Побач узвышаюцца сімвалічныя Дрэвы жыцця са спісам 433 бел. вёсак, знішчаных разам з жыхарамі і адроджаных пасля вайны (спісы адноўленых і неадноўленых вёсак гл. ў арт. *Населеныя пункты Беларусі, знішчаныя разам з жыхарамі ў 1941—44 нямецка-фашысцкімі захопнікамі*). Комплекс уключае сцяну Жалобы вязняў фаш. канцлагераў, на мемар. плітах якой назвы 66 найбольш буйных лагераў смерці і месцаў масавай загубы мірных грамадзян і ваеннапалонных на тэр. Беларусі. Побач са сцяной Жалобы і Могілкамі вёсак — Плошча памяці. У цэнтры яе Вечны агонь (запалены 5.7.1969) на ўшанаванне памяці кожнага 4-га жыхара Беларусі, які загінуў у вайну, і 3 бярозы як сімвал жыцця. Трагедыя Х. і інш. бел. вёсак увекавечана ў творах л-ры і мастацтва. Х.— філіял *Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны*. *А. Г. Ванькевіч.*

**ХАЎРАНКОВЫ**, сёстры, удзельніцы партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Нарадзіліся ў в. Ганцавічы Шклоўскага р-на.

М а т р о н а П і л і п а ў н а (н. 18.11. 1907), сувязная партызан.

Е ф р а с і н н я П і л і п а ў н а (н. 11. 7. 1912), сувязная партызан.

М а р ы я П і л і п а ў н а (12.8. 1914 — жн. 1943). Да вайны працавала эканамістам. У Айч. вайну падпольшчыца, сувязная партызан. Распаўсюджвала лістоўкі сярод насельніцтва, забяспечвала партызан медыкаментамі, боепрыпасамі, звесткамі разведкі. У чэрв. 1943 арыштавана і закатавана ням.-фаш. захопнікамі.

Г а л і н а П і л і п а ў н а (н. 6.8. 1919), настаўніца, сувязная партызан.

Н а д з е я П і л і п а ў н а (1.9.1922— 21.9.1942). Перад вайной настаўніца ў Прапойскім (Слаўгарадскім) р-не. У Айч. вайну па яе ініцыятыве сёстры збіралі зброю, памагалі параненым сав. воінам. З мая 1942 разведчыца партыз. атрада, потым *партызанскай брыгады «Чэкіст»*. Праводзіла падп. камсам. сходы ў вёсках, садзейнічала ўступленню моладзі ў партыз. атрады, удзельнічала ў баявых аперацыях. У вер. 1942 арыштавана і закатавана ням.-фаш. захопнікамі.

З і н а і д а П і л і п а ў н а (н. 11.7. 1925), вяла разведвальную работу ў



Мемарыяльны комплекс **Хатынь.** Няскораны чалавек.

Шклоўскім і Аршанскім р-нах. У партызанах з жн. 1942, сувязная партыз. брыгады «Чэкіст». У студз.— вер. 1943 чл. Горацкага падп. РК ЛКСМБ. Выратавала 27 сав. ваеннапалонных, забяспечвала партызан боепрыпасамі, медыкаментамі.

**ХАХЛО́Ў** Васіль Ісідаравіч (13.1.1900, г. Даўгаўпілс Латв. ССР — 22.8. 1956), ген.-палк. артылерыі (1944). Прафесар. Чл. КПСС з 1919. Беларус. У Чырв. гвардыі з 1917, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў ваен. акадэмію імя Дзяржынскага (1933), імя Фрунзе (1938). З 1941 старшыня Артылерыйскага к-та і нам. нач. Галоўнага арт. ўпраўлення Чырв. Арміі па навукова-даследчай рабоце. У Айч. вайну арганізоўваў канструктарскія бюро, навукова-даследчыя палігоны і кіраваў іх работай. З 1945 нач. Ваен. акадэміі імя Дзяржынскага.

**ХАЦЕ́НЧЫЦКІ БОЙ 1943,** бой паміж *партызанскай брыгадай імя М. В. Фрунзе* і ням.-фаш. захопнікамі ў в. Хаценчыцы Ільянскага р-на 23.6. 1943.

Гарнізон у в. Хаценчыцы быў адным з гал. апорных пунктаў у сістэме абароны акупантаў ад партызан. Ён глыбока ўклініўся ў партыз. зону і перакрыў подступы да чыг. участкаў Мінск — Маладзечна і Маладзечна — Крулеўшчына, прыкрываў сабою гарнізоны праціўніка ў бліжэйшых населеных пунктах Ілья, Вязынь, Чырвонае, Раёўка. Гарнізон налічваў каля 100 гітлераўцаў, узброеных 45-мм гарматай, 2 мінамётамі, 12 кулямётамі, умацаваны загародамі з калючага дроту, палосамі траншэй і 5 дзотамі з кругавым абстрэлам; размяшчаўся на ўзвышаным месцы і быў прыстасаваны да вядзення кругавой абароны. Аперацыя па разгроме гарнізона рыхтавалася паводле загада камандавання брыгады, план бою распрацаваны нач. штаба брыгады капітанам А. Д. Коўбіям. Сілы партыз. брыгады (480 байцоў) былі падзелены на 4 групы: ударную, скоўваючую, прыкрыцця і засады на шляхах у вёскі Ілья і Раёўка.

Пасля дакладнай разведкі асн. сілы брыгады 23 чэрв. да 20 гадз вечара скрытна сканцэнтраваліся ў лесе на ПдЗ ад в. Паньшы (у 3—4 км на Пд ад в. Хаценчыцы). Перад пачаткам баявых дзеянняў партыз. разведка паведаміла, што частка гітлераўцаў з Хаценчыцкага гарнізона 22.6.1943 зрабіла напад на хутар Пляшчаны Ільянскага р-на, дзе спаліла дамы і расстраляла старых, жанчын і дзяцей. Скоўваючая група наносіла ўдар з паўд.-зах. боку в. Хаценчыцы, штурмавая на чале з камандзірам атрада імя Варашылава лейт. Э. Л. Смаленскім, яго намеснікам лейт. П. І. Карабіцыным і А. Д. Коўбіем падавіла агонь гарматы і 5 дзотаў, адзін з якіх аказаў упартае супраціўленне. Агульнымі намаганнямі партызан дзот быў знішчаны, гарнізон поўнасцю разгромлены. Уся зброя і боепрыпасы праціўніка перайшлі ў рукі партызан. Разгром гарнізона ў в. Хаценчыцы дазволіў на 120 км расчысціць раён дзеянняў партыз. брыгады, пазбавіў насельніцтва ад пастаянных карных і грабежніцкіх акцый гітлераўцаў. Гарнізон у в. Хаценчыцы акупанты не змаглі аднавіць. *У. С. Пасэ.*

**ХАЦКЕ́ВІЧ** Андрэй Антонавіч (2.7. 1909, в. Старое Заліцвінне Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл.— 8.6.1976), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Пінскай вобл. Чл. КПСС з 1938. З 1933 на парт. і сав. рабоце. З ліп. 1941 у тыле ворага: радавы, камандзір партыз. групы, палітрук роты атрада імя Кірава (гл. ў арт. *Партызанская брыгада імя С. М. Кірава* Пінскай вобл.). З 25. 8.1943 да 10.7.1944 сакратар Целяханскага падп. РК КП(б)Б, рэдактар падп. газ. *«Авангард»*. У 1944—47 2-і сакратар Целяханскага РК КП(б)Б. У 1947—59 на гасп. рабоце.

**ХАЧАТРА́Н** Аганэс Аляксандравіч (н. 9. 10.1916, с. Цех Гарыскага р-на Армянскай ССР), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай і Баранавіцкай абл. Чл. КПСС з 1940. Скончыў парт. школу пры ЦК КП Арменіі (1951). З чэрв. 1941 на Зах. фронце. З сак. 1942 у партызанах: палітрук роты, з ліп. 1942 камісар атрада 61-га (гл. *Партызанская брыгада 61-я*), у сак.— маі 1943 камісар *партызанскай брыгады 5-й Клічаўскай,* з мая 1943 камісар, з мая 1944 камандзір *партызанскага атрада 620-га імя В. І. Чапаева.* У 1944—75 на парт., сав. і адм.-гасп. рабоце.

**ХВАТА́ЎКА,** вёска на тэр. Кіраўскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1 км на ПнЗ ад в. Боркі Грыбавецкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 285 чал. 15.6.1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 285 жыхароў, вёску (42 двары) спалілі, маёмасць разрабавалі. Пасля вайны не адрадзілася. У цэнтры в. Боркі ў 1964 пастаўлены помнік на ўвекавечанне жыхароў Хватаўкі і суседніх вёсак. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**ХІГРЫ́Н** Барыс Львовіч (14.8.1909, Орша — 5.7.1941), Герой Сав. Саюза (1941). Чл. КПСС з 1929. У Чырв. Арміі з 1931. Скончыў Маскоўскае арт. вучылішча (1933). На фронце з чэрв. 1941. Камандзір арт. дывізіёна капітан Х. вызначыўся ў баях на р. Друць (на шашы Бабруйск — Магі-



Мемарыяльны комплекс **Хатынь.** Могілкі вёсак.



Мемарыяльны комплекс **Хатынь.** Вечны агонь.

лёў). 5.7.1941 дывізіён пад яго камандаваннем адбіў атакі і затрымаў наступленне ворага на левым беразе Друці. Х. замяніў параненага наводчыка і асабіста падбіў 4 танкі праціўніка. Загінуў у гэтым баі. Пахаваны ў г. п. Бялынічы. Яго імем названы вуліцы ў Оршы, Бялынічах, на месцы, дзе загінуў, пастаўлена

В. І. Хахлоў.



Б. Л. Хігрын.



Саўінфармбюро, выяўлялі і знішчалі ням. агентаў і правакатараў, захавалі значную колькасць калгаснай жывёлы. Праводзілі дыверсіі: разбурылі дамбу кардоннай ф-кі ў Новых Валоках; псавалі лініі тэлефоннай сувязі, узрывалі масты на шашэйных дарогах, знішчылі 3 аўтамашыны, у крас. 1942 — лесасклад, вывелі са строю паравы кацёл і абсталяванне на лесапільні. У студз. 1942 Новікаў па даносе правакатара схоплены карнікамі і расстраляны. Астатнія члены групы ў вер. 1942 пайшлі ў партыз. атрады імя Сталіна і «Полымя». У барацьбе з ням.-фаш. акупантамі загінулі: П. І. Блізнюкоў, У. Р. Дзятлёнак, І. Р. Казак, М. І. Карнейчык, І. В. Новікаў, А. А. Талбатаў, А. А. Цярэшка, В. А. Цярэшка, К. М. Чарапок. *Л. І. Якубоўская.*

**ХМЯЛЁЎСКІ** Аркадзь Сільвестравіч (3.2. 1921, в. Асееўка Мінскага р-на — 17.2.1987), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1942. З 1941 на Зах., Бранскім, Цэнтр., 1-м Укр. франтах. Удзельнік Курскай бітвы, вызвалення Украіны, Польшчы, Чэхаславакіі. Камандзір стралк. батальёна капітан Х. вызначыўся ў баях на тэр. Польшчы і Германіі. Батальён пад яго ка-



Сёстры Хаўранковы.

гармата з мемар. дошкай. Навечна залічаны ў спісы вайск. часці.

**ХІДРАЎСКАЕ КАМСАМОЛЬСКА-МАЛАДЗЁЖНАЕ ПАДПОЛЛЕ.** Дзейнічала з 1941 да вер. 1942 у в. Хідра Пухавіцкага р-на. Аб'ядноўвала 17 чал. Арганізатары і кіраўнікі: А. П. Гутараў, С. М. Юшко, А. А. Талбатаў, з вер. 1941 І. В. Новікаў. Мела групы ў в. Падкамень, Ясная Паляна, Заболева, Падсобнае, Балачанка, Дукаўка і інш. Падпольшчыкі сарвалі аб'яўленую акупантамі рэгістрацыю камуністаў і камсамольцаў, збіралі і перадавалі партызанам зброю, вялі агітацыю сярод насельніцтва, распаўсюджвалі зводкі

мандаваннем 8.1.1945 у раёне Сандаміра захапіў вышыню, 12.1.1945 першы пачаў штурм варожай абароны. 26.1.1945 на падручных сродках фарсіраваў р. Одра, захапіў шэраг населеных пунктаў. Да 1947 у Сав. Арміі, маёр. Працуе ў Мінску на з-дзе.

**ХМЯЛЁЎСКІ** Канстанцін Іосіфавіч (1905, Мінск — 1943), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў *Мінскага партыйнага падполля.* Чл. КПСС з 1928. З 1921 рабочы на чыгунцы, шчаціннай ф-цы, на гасп. рабоце. У час акупацыі Мінска з вер. 1941 удзельнічаў у арганізацыі падполля, разам з М. К. *Каржанеўскім* кіраваў парт. падполлем у Кастрычніцкім р-не г. Мінск, накіроўваў дзейнасць камсам.-маладзёжных груп. З мая 1942 сакратар Кастрычніцкага падп. РК КП(б)Б. З чэрвеня 1942 чл. *Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б,* заг. аддзела па арганізацыі дыверсій, удзельнічаў у распаўсюджванні падп. газ. *«Звязда»* і лістовак. У кастр. 1942 арыштаваны і вясной 1943 закатаваны ў фаш. засценках. У Мінску яго імем названа вуліца.

**ХМЯЛЁЎСКІ** Мікалай Рыгоравіч (1. 10.1900, в. Бароўка Верхнядзвінскага р-на — 13.9.1980), ген.-лейт. авіяцыі (1949). Чл. КПСС з 1917. Скончыў Ваен.-паветр. акадэмію імя Жукоўскага (1936). У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. З 1941 на фронце: нач. штаба авіядывізіі, аддзела авіяцыі далёкага дзеяння, нам. нач. штаба паветр. арміі. Удзельнік баёў пад Масквой, Усх.-Прускай, Усх.-Памеранскай, Берлінскай аперацый. Пасля вайны да 1960 у цэнтр. апараце ВПС.

**ХОЙНІКІ,** горад, цэнтр Хойніцкага р-на. За 103 км на ПдЗ ад Гомеля, за 6 км ад ст. Хойнікі чыг. веткі Васілевічы — Хойнікі на лініі Калінкавічы — Гомель, на аўтадарозе Калінкавічы — Камарын, аўтадарогамі звязаны з Нароўляй, Рэчыцай. З 1926 цэнтр раёна. У 1938—67 гар. пасёлак. 3,4 тыс. жыхароў у 1939. Акупіраваны 25.8.1941 ням.-фаш. захопнікамі, якія амаль цалкам спалілі і разбурылі Х., за гады акупацыі знішчылі ў гар. пасёлку і раёне 3139 чал. На тэр. раёна дзейнічалі Хойніцкія падп. райкомы КП(б)Б (25.8.1941 — ліст.1942, 10.8— 25.11.1943) і ЛКСМБ (жн. 1941 — ліст. 1942, 31.7—25.11.1943), *Хойніцкае партыйна-камсамольскае падполле,* партыз. брыгады 99-я Калінкавіцкая, Рэчыцкая імя Варашылава, Лоеўская «За Радзіму», асобныя партыз. атрады імя Катоўскага, імя Суворава, імя Чапаева, Хойніцкі (гл. адпаведныя артыкулы). 15.11.1942 у Х. бел. і ўкр. партызаны разграмілі буйны фаш. гарнізон. Вызвалены 23.11.1943 воінамі 519-га стралк. палка 81-й стралк. дывізіі (ген.-маёр А. Б. Барынаў) 89-га стралк. корпуса і 68-й танк. брыгады (маёр Р. А. Цімчанка) 61-й арміі Бел. фронту ў ходзе *бітвы за Дняпро 1943.* У Х. брацкая магіла сав. воінаў, партызан і падпольшчыкаў, на якой пастаўлены помнік і пліты з імёнамі загінуўшых; брацкая магіла славацкіх партызан, на ёй надмагільная пліта, помнікі ў гонар сав. воінаў, якія вызвалілі Х. і раён (у 4 км ад горада); мемар. дошкі Герою Сав. Саюза А. Г. Качаткову, вучням і настаўнікам СШ № 1, што загінулі ў барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў. *У. М. Якубоўскі.*

**ХОЙНІЦКАЕ ПАРТЫЙНА-КАМСАМОЛЬСКАЕ ПАДПОЛЛЕ.** Дзейнічала з ліст. 1941 да ліст. 1943 у Хойніках і Хойніцкім р-не. Аб'ядноўвала больш за 60 чал. Арганізатар і кіраўнік Я. І. *Казачук.* Падп. групы створаны:

у г. п. Хойнікі (кіраўнік М. М. Даўгаполаў), на чыг. ст. Хойнікі (Г. І. Лаўрусенка), на чыг. ст. Аўрамаўская (П. В. Бот), у вёсках Стралічава (У. А. Табачны), Карчавое (М. А. Колас), Паташня (Ю. М. Цішкевіч) і інш. Падпольшчыкі вялі паліт. работу, выпускалі і распаўсюджвалі лістоўкі, у клубе г. п. Хойнікі паказалі фільмы «Партбілет» і «За Савецкую Радзіму», вясной 1942 арганізавалі ўцёкі сав. ваеннапалонных з турмы ў Хойніках, вывелі да партызан 57 салдат і афіцэраў з славацкага гарнізона, выводзілі са строю тэлефонныя лініі, электрастанцыю, спалілі лесасклад на чыг. станцыі, падтрымлівалі сувязь з партызанамі, здабывалі для іх зброю, боепрыпасы, медыкаменты.

У барацьбе з ням.-фаш. акупантамі загінула 60 падпольшчыкаў, у т. л. В. Р. Барысенка, Т. А. Бордак, П. В. Бот, М. С. Вайцахоўская, С. П. Варабей, М. І. Галавесава, А. У. Галяк, Ф. А. Гапоненка, М. С. Гаўрыльчык, М. М. Даўгаполаў, А. І. Дзядзіцкі, В. Л. і Л. Р. Ерш, С. М. Казлоўская, А. І. Караеў, Р. В. Караткевіч, Д. І. Карпаў, М. А. Колас, Б. А. Краўчанка, Г. А. Кулакоўскі, Ф. І. Купрэйчык, М. І. Курапей, Н. А. Латышкевіч, Г. І. Лаўрусенка, М. М. Майшук, А. А. Назаранка, К. С. Наляговіч, М. А. Сакалова, В. Н. Салаўёў, Н. З. Сілкова, Л. І. Сычоў, У. А. Табачны, Т. М. Фяськоў, Г. М. і Ю. М. Цішкевічы, Л. М. Чаховіч, М. В. Чаховіч, М. В. Чэкан, Ф. Е. Шчукоўскі. У Хойніках на брацкіх могілках сав. воінаў, партызан і падпольшчыкаў у 1958 пастаўлены помнік.

*А. І. Захаранка.*

**ХО́МЧАНКА** Пётр Антонавіч (8.7. 1906, в. Міклашы, Віцебскі р-н — 31.5.1973), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай і Вілейскай абл. Скончыў Аб'яднаную Бел. ваен. школу імя ЦВК БССР (1930), Інтэнданцкую акадэмію Чырв. Арміі (1941). З 1927 у Чырв. Арміі. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну ўдзельнік баёў пад Ленінградам. У партызанах з чэрв. 1942: камандзір аддзялення, у ліп.— кастр. 1942 нач. штаба, у кастр. 1942 — сак. 1943 камандзір *партызанскай брыгады імя С. М. Кароткіна*, у сак. 1943 — сак. 1944 і ў чэрв.— ліп. 1944 — *партызанскай брыгады 1-й імя А. В. Суворава.* Да 1951 на сав. і гасп. рабоце.

**«ХО́ЦЕМЛЯ — АРГУНЫ́»** («Chozemlja — Arguny»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партыз. атрадаў 6-га «Марак» і 8-га імя М. Н. Селіваненкі партыз. брыгады «Аляксея» (гл. *Партызанская брыгада імя А. Ф. Данукалава*), спец. групы БШПР пад камандаваннем В. Дз. Сазонава і мясцовага насельніцтва ў Суражскім і Віцебскім р-нах 3.10.1942. Назва ад в. Хоцемля і Аргуны Лёзненскага р-на.

Праводзілася падраздзяленнямі 237-га ахоўнага батальёна, 13-га паліцэйскага палка СС з прыдадзенымі ім процітанк. і мінамётнымі батарэямі на чале з камендантам Смаленска. Паводле плана штаба тылу групы армій «Цэнтр» аперацыя «Х. — А.» разам з карнай аперацыяй *«Маланка»* павінна была ачысціць ад партызан перадполле чыг. Полацк — Смаленск. Раптоўнай атакай з Пн і Пд карнікі хацелі ўварвацца ў партыз. лагер. 6 гадзін ішоў цяжкі бой. Сілы праціўніка ў 4 разы пераўвышалі сілы партызан. Народныя мсціўцы пакінулі свае пазіцыі і з боем адышлі на ПнЗ. Не дасягнуўшы поспеху, карнікі падпалілі в. Хоцемля, 97 жыхароў расстралялі і каля 60 жанчын і дзяцей спалілі ў хатах, у в. Кавалёва Суражскага р-на спалілі больш за 50 двароў і расстралялі 40 жыхароў.

*В. С. Лазебнікаў, У. С. Пасэ.*

**ХО́ЦІМСК,** гар. пасёлак, цэнтр Хоцімскага р-на, на р. Беседзь пры ўпадзенні ў яе р. Альшоўка. За 207 км на ПдУ ад Магілёва, за 37 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў — Унеча, аўтадарогамі звязаны з Касцюковічамі і Суражам (Бранская вобл.). 3,2 тыс. жыхароў у 1939. 15.8.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў Х. і раёне 869 чал. Паводле пастановы Магілёўскага падп. абкома КП(б)Б ад 12.4. 1943 у паўд.-ўсх. раёнах Магілёўскай вобл. (вылучаных у паўд.-усх. зону), у т. л. ў Хоцімскім р-не, кіраўніцтва парт. падполлем і партыз. рухам ажыццяўляў упаўнаважаны абкома КП(б)Б Я. М. Нікіфараў. У Х. і раёне дзейнічалі партыз. брыгады «Уперад», 5-я Клятнянская, асобныя партыз. атрады «Другія», «Бальшавік», 2-і, 2-і Хоцімскі (гл. адпаведныя артыкулы). 23.10.1941 партызаны дыверсійна-разведвальнага атрада НКДБ СССР (камандзір Дз. М. Мядзведзеў) і 2-га Хоцімскага атрада (камандзір Л. У. Казакоў) зрабілі налёт на ням. гарнізон у Х., разграмілі гар. ўправу, камендатуру, паліцэйскае ўпраўленне, вывелі са строю тэлефонную станцыю, знішчылі ням. прадуктовы склад, на зах. ускраіне спалілі мост. Вызвалены 26.9.1943 у ліку першых райцэнтраў Беларусі воінамі 407-га, 444-га, 539-га стралк., 575-га арт. палкоў, 152-га асобнага знішчальнага процітанк. дывізіёна 108-й стралк. дывізіі (палк. П. А. Церамаў), 1287-га, 1289-га, 1291-га стралк., 971-га арт. палкоў, 200-га асобнага знішчальнага дывізіёна 110-й стралк. дывізіі (палк. С. М. Тарасаў) 50-й арміі Бранскага фронту ў ходзе *Бранскай аперацыі 1943.* У Х. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму, на якіх пастаўлены помнікі; помнікі Вызвалення, у гонар разгрому фаш. гарнізона, ахвярам фашызму, землякам, якія загінулі ў гады Айч. вайны; мемар. дошка воінам-вызваліцелям.

*Т. І. Паваліхіна.*

**ХО́ЦІМСКІ** Мікалай Васілевіч (27.2. 1903, г. п. Шарашова Пружанскага р-на — 25.11.1986), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1924. У Чырв. Арміі з 1920. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію матарызацыі і механізацыі РСЧА (1936). На фронце з ліст. 1941. Удзельнік баёў пад Масквой, Варонежам, Сталінградам, вызвалення Украіны, Беларусі (Слуцк, Баранавічы, Слонім), Польшчы. Камандзір механіз. брыгады палкоўнік Х. вызначыўся пры вызваленні Польшчы. У час зімовага наступлення 1945 брыгада з баямі



А. С. Хмялеўскі. М. В. Хоцімскі.

прайшла ад Віслы да Одэра, вызваліла больш за 300 населеных пунктаў. Да 1953 у Сав. Арміі, палк. Ганаровы грамадзянін г. Пружаны.

**ХРАМО́ВІЧ** Георгій Антонавіч (22.11. 1908, в. Ахоцічы Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл.— 5.3.1985), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1930. Скончыў ВПШ пры ЦК КПСС (1956). У 1930—32 у Чырв. Арміі, потым на парт. і гасп. рабоце. У 1940—41 сакратар Чэрыкаўскага РК КП(б)Б. З пач. вайны камандзір батальёна Чэрыкаўскага нар. апалчэння. У ліп.— снеж. 1941 і чэрв.— кастр. 1943 сакратар Чэрыкаўскага падп. РК КП(б)Б, адначасова з жн. 1941 камандзір *партызанскага атрада Чэрыкаўскага,* у чэрв.— вер. 1942 камісар *партызанскага атрада 620-га імя В. І. Чапаева,* з кастр. 1942 камісар, з лют. да жн. 1943 камандзір *партызанскага атрада 720-га.* У 1943—56 на парт. і сав. рабоце. Аўтар кніг «Зарава над Сожам» (1971), «Тры партызанскія гады» (2 выд. 1981). Ганаровы грамадзянін г. Чэрыкаў.

**ХРАПКО́** Мікалай Барысавіч (н. 23.2. 1909, в. Бярозаўка Глускага р-на), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай і Палескай абл. Чл. КПСС з 1941. З 1930 на гасп. рабоце ў Глускім р-не. З 1940 нач. планава-фінансавага аддзела Палескага аблземаддзела. У партызанах з ліп. 1941: камандзір групы, атрада, у жн. 1943 — чэрв. 1944 камісар *партызанскай брыгады 37-й імя А. Я. Пархоменкі,* адначасова чл. Бабруйскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—78 на парт., сав. і гасп. рабоце.

**ХРОМАВА** Аляксандра Іванаўна (н. 4.

7.1909, Беласток ПНР), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Брэсцкай вобл. Чл. КПСС з 1940. Перад вайной нам. дырэктара Брэсцкага міжрайгандлю. З жн. 1941 інструктар падп. парт. цэнтра ў Брэсце (гл. ў арт. *Брэсцкае партыйнае падполле).* З крас. 1942 у партызанах. З вер. 1943 да ліп. 1944 сакратар Антопальскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—70 на сав. рабоце ў Брэсце, Мінску.



Ц. Ц. Хрукін. Р. А. Худалееў.

**ХРУ́КІН** Цімафей Цімафеевіч (21.6. 1910, г. Ейск Краснадарскага краю — 19.7.1953), двойчы Герой Сав. Саюза (1939, 1945), ген.-палк. авіяцыі (1944). Чл. КПСС з 1929. Скончыў Луганскую ваен. школу пілотаў (1933), курсы ўдасканалення вышэйшага камсаставу пры Ваен. акадэміі Генштаба (1941). Удзельнік нац.-рэв. вайны ў Іспаніі 1936—39, баёў супраць японскіх мілітарыстаў у Кітаі ў 1938, сав.-фінл. вайны 1939—40, камандуючы ВПС арміі. У Айч. вайну на фронце з 1941: камандуючы ВПС Карэльскага, Паўд.-Зах. франтоў, 8-й паветр. арміяй на Паўд-Зах., Сталінградскім, 4-м Укр. франтах і 1-й паветр. арміяй, якая ў складзе 3-га Бел. фронту ўдзельнічала ў вызваленні Беларусі, Прыбалтыкі, ва Усх.-Прускай і інш. аперацыях. У 1946—47 і ў 1950—53 нам. галоўнакамандуючага ВПС.

**«ХРУШЧ»** («Maikäfer»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партызан і мясцовага насельніцтва *Клічаўскай партызанскай зоны* ў 1942 і 1943. Першая аперацыя праводзілася з 30 чэрв. да 20.7.1942 сіламі 203-й ахоўнай дывізіі, спец. карнага батальёна «Ост» і т. зв. «добраахвотніцкіх» батальёнаў «Бярэзіна» і «Дняпро». Абарону партыз. зоны ажыццяўлялі партыз. атрады 208-ы імя Сталіна, 152-і, 277, 537, 620-ы імя Чапаева і 760-ы пад кіраўніцтвам Клічаўскага падп. РК КП(б)Б і *Клічаўскага аператыўнага цэнтра.*

Упартым супраціўленнем і контратакамі атрады сарвалі планы карнікаў акружыць і знішчыць партыз. сілы і нанеслі ім вял. страты. У баі забіты кіраўнік карнай аперацыі, у выніку страт з аперацыі выведзены батальён «Бярэзіна». Наступление карнікаў спынена на рубяжы р. Ольса паміж Клічавам і в. Бацэвічы. Ваен. савет Зах. фронту арганізаваў дастаўку партызанам боепрыпасаў і ўзбраення, эвакуацыю параненых. З мэтай дапамогі камандаванню ў партыз. зону накіраваны ўпаўнаважаны ЦК КП(б)Б М. І. Сарычаў і прадстаўнік ЗШПР капітан М. С. Канатопскі. Усе намаганні карнікаў фарсіраваць Ольсу і захапіць плацдарм не мелі поспеху. 21 ліп. на дапамогу карнікам кінуты 286-я ахоўная дывізія, 2 арт. дывізіёны, узмоцненыя каманды тайнай палявой паліцыі і СД, 2-і паліцэйскі полк, спец. каманды па захопе рабочай сілы, прадуктаў харчавання, маёмасці і жывёлы. Працяг аперацыі атрымаў кодавую назву *«Арол»*.

Другая аперацыя праводзілася 3—17.5.1943 сіламі 2-га грэнадзёрскага самакатнага і 635-га грэнадзёрскага вучэбна-палявога палкоў, 13-га паліцэйскага палка і 3 эскадронаў 600-га палка з прыдадзенымі ім авіяц., танк., арт. і інш. падраздзяленнямі, накіраванымі камандаваннем ням. групы армій «Цэнтр». Карнікі канцэнтраваным наступленнем з раёнаў Магілёва, Бялыніч, Беразіно і Кіраўска імкнуліся заблакіраваць партыз. брыгады Клічаўскай партыз. зоны ва Усакінскім лесе, а потым знішчыць, забяспечыўшы за сабою кантроль над шашой Бабруйск — Магілёў і чыгункай Асіповічы — Магілёў.

4 мая кальцо блакады замкнулася, на партыз. лагеры абрушыўся шквал арт. і мінамётнага агню. Гітлераўцы разлічвалі завяршыць аперацыю за 5 дзён, але ў 1-ы дзень наступлення сустрэлі ўпартае супраціўленне 1-й, 2, 4, 5-й Клічаўскіх, 3-й Бярэзінскай і 6-й Магілёўскай брыгад, якія апынуліся ў блакадзе. Упартымі сустрэчнымі баямі, імкнучыся прарваць блакаду, партызаны вымусілі праціўніка змяніць тактыку: ён пачаў акопвацца, абсталяваў агнявыя кропкі, хады зносін паміж 3 радамі траншэй. Блакаднае кальцо ўзмацнялася танкамі і бронемашынамі. Паводле загада *Магілёўскай ваенна-аператыўнай групы* пры падп. абкоме КП(б)Б і Магілёўскага падп. абкома КП(б)Б брыгады разгрупаваліся па ўсёй лініі акружэння, пакінулі ў лагерах і закапалі ўсё, што магло перашкодзіць хуткаму манеўру і прарыву. 5 мая фашысты пачалі масіраваны абстрэл лесу, авіяцыя наносіла бомбавыя ўдары, скідвала касеты з запальнымі бомбамі і бочкі з лёгкаўзгаральнай вадкасцю. Пачаліся лясныя пажары. Першымі прарвалі блакаду ў ноч на 6 мая 1-я і 2-я Клічаўскія брыгады, якія знішчылі на ўчастку прарыву арт. і мінамётныя батарэі, 2 бронемашыны і роту гітлераўцаў. 3-я Бярэзінская брыгада выйшла ў раён в. Вял. Махавое. Астатнія брыгады разгрупаваліся і выходзілі невял. групамі.

Ва Усакінскім лесе фашысты ўчынілі крывавую расправу над знойдзенымі ў лясных шпіталях параненымі: 209 з іх было забіта або прапала без вестак (87 параненых партызаны вынеслі на руках з зоны). У баях з карнікамі партызаны знішчылі да 400 салдат, афіцэраў і паліцэйскіх, у т. л. ў Бялыніцкім, Быхаўскім гарнізонах, якія былі разгромлены, і апорных пунктах паблізу Магілёва. 17 мая ням. камандаванне групы армій «Цэнтр» спыніла аперацыю. Партыз. брыгады вярнуліся на месцы свайго базіравання. Камандуючы аперацыяй ген.-лейт. Шльц вымушаны быў прызнаць, што адваяваную ў ходзе аперацыі «Х.» шашэйную дарогу Мінск — Магілёў зноў давялося аддаць партызанам, і тыя моцна яе разбурылі.

*У. С. Пасэ.*

**«ХУБЕ́РТУС»** («Hubertus»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партызан і мясцовага насельніцтва абапал чыг. лініі Васілевічы — Рэчыца ў Рэчыцкім, Хойніцкім, Васілевіцкім і Калінкавіцкім р-нах. Працяг карнай аперацыі *«Асвячэнне храма»*.

Праводзілася ў 2 этапы: «Х.-І» 24—28.10.1943 і «Х-ІІ» 3—6.11.1943 сіламі 862-га і 628-га ахоўных батальёнаў, 581-га дывізіёна палявой жандармерыі, асобных рот і батальёнаў 47-га ландвернага, 57-га, 608-га, 613-га ахоўных палкоў і інш. Гітлераўцы разлічвалі шчыльным кальцом блакіраваць Гомельскае партыз. злучэнне ў Узнажскім лесе (каля в. Узнаж Васілевіцкага р-на), а потым знішчыць партызан і мясцовых жыхароў, якія знаходзіліся пад іх абаронай. На працягу сутак *партызанская брыгада «Жалязняк»*, *партызанская брыгада Рэчыцкая імя К. Я. Варашылава*, *партызанская брыгада «Бальшавік»*, *партызанская брыгада 101-я Даманавіцкая* і асобныя атрады партыз. злучэння Палескай вобл. пад кіраўніцтвам *Гомельскага падпольнага абкома КП(б)Б* стойка ўтрымлівалі рубяжы абароны ў раёне вёсак Шоўкавічы, Васількоў, Красналужжа, Смалярня (Васілевіцкі р-н), Валадарск (Рэчыцкі р-н), у бязлітасных баях нанеслі карнікам значныя страты.

Да зыходу 25 кастр. ў партызан скончыліся боепрыпасы, камандаванне прыняло рашэнне аб прарыве блакады і пераправе на левы бераг р. Бярэзіна. У ноч на 26 кастр. партызаны разам з насельніцтвам і параненымі на плывучым мосце, пабудаваным брыгадай «Жалязняк», пераправіліся цераз раку і выйшлі ў раён хутара Глушніца (Стрэшынскі р-н). У Узнажскім лесе, адцягваючы на сябе праціўніка, вялі баі партыз. брыгада 101-я Даманавіцкая, асобны *партызанскі атрад Парыцкі імя С. М. Кірава*, некалькі атрадаў з брыгад імя Варашылава і «Бальшавік». Партызаны, якія выйшлі з блакады, былі неўзабаве знойдзены сав. авіяразведкай. У раёне хутара Глушніца прызямлілася некалькі сав. ваенна-транспартных самалётаў. Атрымаўшы боепрыпасы і адправіўшы за лінію фронту параненых байцоў, партызаны вярнуліся на месцы базіравання. 28 кастр. аперацыя «Х.» была прыпынена для перагрупоўкі сіл. 3 ліст. група Рубзама, атрымаўшы ў падмацаванне 2 ахоўныя батальёны і бранятанк. штурмавую групу, пачала карную аперацыю ў раёне в. Амелькаўшчына, Дубровіца (Хойніцкі р-н), Маладуша. Аднак дасягнуўшы шашы на ўчастку Дубровіца — Маладуша, гітлераўцы далей прасунуцца не змаглі: яны зноў пацярпелі адчувальныя

страты ў жывой сіле і тэхніцы і адвялі свае войскі на перагрупоўку.

*У. С. Пасэ.*

**ХУДАЛЕ́ЕЎ** Рыгор Аляксандравіч (22.2.1902, в. Ізабеліна Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл.—4.7.1964), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1926. У Чырв. Арміі з 1924. Скончыў Аб'яднаную бел. ваен. школу імя ЦВК БССР (1930). На фронце з 1941, нач. штаба арт. палка. Удзельнік абароны Нясвіжа, Слуцка, Крычава, Клімавіч, Маскоўскай бітвы, вызвалення Беларусі, Літвы, Латвіі, Польшчы. Палкоўнік Х. вызначыўся ў *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944.* Пад яго камандаваннем артылерысты стралк. дывізіі ўдзельнічалі ў прарыве абароны ворага на тэр. Сіроцінскага р-на, 24. 6.1944 фарсіравалі Зах. Дзвіну ў раёне в. Шарыпіна, вызвалялі Бешанковічы, Лепель, Докшыцы. Да 1955 у Сав. Арміі.

**ХУТ** Ісхак Ватагежавіч (16.11.1913, аул Эдэпсукай 1-ы Тэўчэжскага р-на Адыгейскай аўтаномнай вобл.— 19.6. 1971), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1941. Скончыў Саратаўскі ун-т (1947). З 1934 на сав. рабоце. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. З чэрв. 1941 у Чырв. Арміі, палітрук роты. У партызанах з чэрв. 1942: радавы, ст. ўпаўнаважаны асобага аддзела брыгады, з ліст. 1942 заг. аддзела Дрысенскага падп. РК КП(б)Б, у кастр. 1943— ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады 2-й Дрысенскай.* З 1944 на парт. і пед. рабоце.



**ЦАГЕ́ЛЬНІКІ,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 1,5 км на У ад в. Росіца Бігосаўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жылі 63 чал. У сак. 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»*, фашысты загубілі каля 80 жыхароў гэтай і суседняй вёсак, вёску (20 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1973 на месцы вёскі пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**ЦАЛУ́ЙКА** Васіль Фёдаравіч (н. 21.2. 1918, в. Цалуйкі Брагінскага р-на), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Вілейскай вобл. ў Айч. вайну. Чл. КПСС з 1942. Скончыў Алма-Ацінскі зооветэрынарны ін-т (1945), ВПШ пры ЦК КПСС (1957). З 1937 заатэхнік у Алма-Ацінскай вобл. У партызанах з ліп. 1942: ст. падрыўнік групы, нам. камандзіра, з снеж. 1942 камісар атрада, у снеж. 1943— ліп. 1944 камісар партыз. атрада «За Савецкую Беларусь» (гл. *Партызанская брыгада «За Савецкую Беларусь»).* У 1945—78 на парт., сав., прафс. рабоце.

**ЦАРО́ВА,** вёска на тэр. Полацкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на ПдУ ад в. Заскаркі Вароніцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 37 чал. У крас. 1944, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 19 жыхароў, вёску (16 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**ЦАРУ́К** Уладзімір Зянонавіч (20.12. 1899, в. Вял. Вобрына Карэліцкага р-на — 27.1.1957), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Баранавіцкай вобл. Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1924. Удзельнік грамадз. вайны. З 1920 на падп. рабоце ў Зах. Беларусі. У 1926—39 уладамі бурж. Польшчы зняволены ў турму. У Айч. вайну пам. упаўнаважанага ЦК КП(б)Б і БШПР па Баранавіцкай вобл., у ліп. 1943— ліп. 1944 чл. *Баранавіцкага падпольнага абкома КП(б)Б*, у кастр. — снеж. 1943 кіраўнік *Стаўбцоўскага падпольнага міжрайпартцэнтра*, у кастр. 1943— ліп. 1944 сакратар, 1-ы сакратар Стаўбцоўскага падп. РК КП(б)Б, камандзір *Стаўбцоўскага партызанскага злучэння.* Пасля вайны сакратар Стаўбцоўскага РК КП(б)Б, нам. старшыні Баранавіцкага аблвыканкома, старшыня Баранавіцкага гарвыканкома. Дэп. ВС СССР у 1946—54, ВС БССР у 1940—47 і з 1955. Яго імем названы вуліцы ў г. Баранавічы, Стаўбцы, г. п. Карэлічы і калгас у Карэліцкім р-не, дзе ўстаноўлены бюст Ц.; на радзіме мемар. музей.

**ЦА́РЫКАЎ** Барыс Андрэевіч (31.10. 1926, Гомель — 13.11.1943), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. ВЛКСМ. Са снеж. 1941 да кастр. 1942 партызан. Са студз. 1943 у Чырв. Арміі, удзельнік Курскай бітвы. Разведчык яфрэйтар Ц. вызначыўся ў кастр. 1943 пры фарсіраванні Дняпра ў раёне г. п. Лоеў. Адзін з першых пераправіўся цераз раку і ўстанавіў на беразе чырв. сцяг. Пераправляючы параненых, зрабіў 9 рэйсаў цераз Дняпро. Загінуў у баі. Пахаваны ў Лоеве. Яго імем названы вуліца і школа ў Гомелі, вуліца ў Лоеве, цеплаход, у в. Зябраўка Гомельскага р-на яму пастаўлены помнік.

**ЦВЯТА́ЕЎ** Вячаслаў Дзмітрыевіч (17.1. 1893, ст. Малаархангельск Арлоўскай вобл.—11.8.1950), ген.-палк. (1943), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1943. У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік 1-й сусв. і грамадз. войнаў. Скончыў вышэйшыя акадэмічныя курсы (1922) і курсы ўдасканалення вышэйшага начсаставу пры Ваен. акадэміі імя Фрунзе (1927). У 1941—42 камандуючы аператыўнай групай войск 7-й арміі, нам. камандуючага 4-й арміяй, камандуючы 10-й рэзервовай, са снеж. 1942 5-й ударнай арміяй. У маі — вер. 1944 нам. камандуючага 1-м Бел. фронтам, войскі якога правялі Бабруйскую, Мінскую, Люблін-Брэсцкую аперацыі на тэр. Беларусі, потым камандуючы 6-й і 33-й арміямі. Пасля вайны на адказных пасадах у Сав. Арміі.

**ЦВЯТКО́Ў** Мікалай Іванавіч (16.12. 1904, Магілёў — 21.1.1955), віцэ-адмірал (1951). Чл. КПСС з 1943. У ВМФ з 1922. З 1930 камандзір эсмінца, лінкора, флагманскі сувязіст ваен. флатыліі і флоту. З 1940 нач. аддзела ўпраўлення сувязі ВМФ, у сак.— маі 1945 нач. аддзела сувязі Балтыйскага флоту. З 1947 нач. сувязі ВМФ.

У. З. Царук. Б. А. Царыкаў.



**ЦЕ́ЛЕШАЎ** Яўген Міхайлавіч (н. 19.4. 1923, пас. Забайкал Талачынскага р-на), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Кіеўскае ваен. вучылішча сувязі (1947). На фронце з мая 1942. Камандзір аддзялення сяржант Ц. вызначыўся ў вер. 1943 пры фарсіраванні Дняпра на Пд ад Кіева. На чале групы байцоў пераправіўся цераз раку, захапіў плацдарм і ўтрымліваў яго да падыходу падмацавання; з яго ўдзелам адбіта больш як 10 контратак. Да 1960 у Сав. Арміі, падпалкоўнік.

**ЦЕЛЯХА́НЫ,** гар. пасёлак у Івацэвіцкім р-не, на Агінскім канале. За 45 км на ПдУ ад Івацэвіч, звязаны з аўтамаб. дарогай Івацэвічы — Пінск. У 1940—59 цэнтр раёна. 27.6.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў Ц. і раёне 3226 чал. На тэр. раёна дзейнічалі Целяханскія падп. райкомы КП(б)Б (ліп.— вер. 1941, 16.7.1943—10.7.1944) і ЛКСМБ (25.5.1943—10.7.1944), партыз. брыгады імя Дзяржынскага, 99-я імя Дз. Ц. Гуляева, 150-я імя Ф. М. Языковіча, 8-я, імя Леніна, імя Куйбышава, асобныя партыз. атрады Целяханскі, імя Э. Тэльмана, 200-ы (гл. адпаведныя артыкулы). У студз. 1944 партызаны разграмілі ням.-фаш. гарнізон у Ц. Вызвалены 10.7.1944 у ходзе *Беларускай аперацыі 1944* воінамі 48-й гвардз. стралк. дывізіі (камандзір ген.-маёр Г. М. Корчыкаў)

20-га стралк. корпуса 28-й арміі 1-га Бел. фронту ва ўзаемадзеянні з 99-й партыз. брыгадай імя Дз. Ц. Гуляева (камандзір У. К. *Якавенка*). У Ц. брацкія магілкі сав. воінаў і партызан, на якіх пастаўлены помнік; насыпаны курган Памяці землякам, якія загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе, а таксама загублены ням.-фаш. захопнікамі; помнік партызанам у гонар разгрому ням.-фаш. гарнізона ў Ц.; дарме адбіла 5 контратак праціўніка; на Пн ад Магілёва пераправілася цераз Дняпро, агнём падтрымлівала пераправу батальёна. 27.6.1944 у баі каля в. Галоўчын Ц. са звязкай гранат кінуўся пад варожы танк.

**ЦЕРАШКО́Ў** Аляксей Дзмітрыевіч (18.2.1893, в. Карма Добрушскага р-на — 18.3.1960), Герой Сав. Саюза (1945), ген.-лейтэнант (1945). Чл. КПСС з 1917. У арміі з 1914, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны, нац.-рэв. вайны ў Іспаніі 1936—39, баёў на р. Халхін-Гол у 1939. З 1941 камандзір стралк. дывізіі, корпуса. Дывізія пад камандаваннем Ц. вызначылася пры абароне Тулы ў 1941; корпус пад яго камандаваннем 14.1.1945 прарваў абарону праціўніка на левым беразе Віслы, фарсіраваў р. Варта, за 15 дзён прайшоў з баямі каля 400 км, выйшаў на тэр. Германіі, знішчыў 101 гармату, 13 танкаў, 117 аўтамашын, 20 складоў са зброяй, узяў у палон больш за 1,5 тыс. варожых салдат і афіцэраў. Да 1953 у Сав. Арміі. У Добрушы яго імем названы сярэдняя школа і вуліца, у в. Карма — вуліца.

сельніцтва 2890 галоў жывёлы, у т. л. 282 кані, 122 павозкі, больш за 7 т ільновалакна, 5 т ільнасемя, 563 т збожжа. Акупантам удалося на кароткі час аднавіць адносна беспярэпынны рух на чыгунках Лунінец — Баранавічы, Пінск — Мікашэвічы. *У. С. Пасэ.*

**ЦІМАФЕ́ЕНКА** Раман Іларыёнавіч (5.9. 1902, в. Дзедня Чавускага р-на — чэрв. 1942), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў *Гомельскага партыйнага падполля*. Чл. КПСС з 1926. Скончыў Бел. дзярж. вышэйшы пед. ін-т. Працаваў настаўнікам, выкладчыкам Гомельскага чыг. тэхнікума, лектарам палітаддзела Бел. чыгункі. Пакінуты ЦК КП(б)Б у тыле ворага для падп. работы. Удзельнічаў у абароне Гомеля ў саставе *Гомельскага палка народнага апалчэння*. З жн. 1941 нам. кіраўніка Гомельскай падпольнай групы Ц. С. Барадзіна, з ліст. 1941 чл. *Гомельскага падпольнага аператыўнага цэнтра*. Загінуў у баі з ворагам. Яго імем названа вуліца ў Гомелі.



Я. М. Целешаў. С. Р. Церашкевіч. А. Дз. Церашкоў. І. А. Цімашэнка. С. К. Цімашэнка. І. М. Цімчук.

мемарыяльная дошка В. З. *Харужай*. *Ц. У. Капранава.*

**ЦЕРАХО́ЎКА,** гар. пасёлак у Добрушскім р-не, на р. Вуць. За 30 км на Пд ад Добруша, чыг. станцыя на лініі Гомель — Бахмач, аўтадарогамі звязана з Гомелем, Добрушам, Дабранкай. У 1938—62 цэнтр раёна. 3,1 тыс. жыхароў у 1939. У пачатковы перыяд вайны ў Церахоўскім р-не дзейнічалі знішчальны батальён і атрад нар. апалчэння колькасцю 600 чал. (камандзір Сівалобаў), у раёне Ц. баі супраць ням.-фаш. войск вялі воіны 24-й *Самара-Ульянаўскай Бярдзічаўскай Жалезнай стралковай дывізіі* і войскі 21-й арміі Цэнтр. фронту. 23.8.1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў Ц. і раёне 609 чал. У гар. пасёлку і раёне дзейнічалі Церахоўскі падп. райком ЛКСМБ (чэрв.—27.9.1943), партыз. брыгады 10-я Журавіцкая, Добрушская імя Сталіна (гл. адпаведныя артыкулы). Вызвалена 27.9.1943 воінамі 162-й стралк. дывізіі (ген.-маёр С. Я. Сянчыла) 19-га стралк. корпуса 65-й арміі Цэнтр. фронту ў ходзе *Чарнігаўска-Прыпяцкай аперацыі 1943*. У Ц. брацкая магіла сав. воінаў, на якой пастаўлены помнік, помнікі землякам, настаўнікам і вучням мясцовай школы, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. *В. В. Гетаў.*

**ЦЕРАШКЕ́ВІЧ** Сяргей Рыгоравіч (23.4. 1910, с. Чкалаўскае Спаскага р-на Прыморскага краю — 27.6.1944), Герой Сав. Саюза (1945). У Чырв. Арміі з 1931. Скончыў курсы мал. лейтэнантаў (1939). На фронце з 1941. Камандзір роты ст. лейтэнант Ц. вызначыўся пры вызваленні Магілёўскай вобл. 23.6.1944 яго рота захапіла вышыню, фарсіравала р. Бася, на плацдарме... 

**«ЦЁПЛЫ ВЕ́ЦЕР»** («Föhn»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партызан і мясцовага насельніцтва абапал чыгункі Лунінец — Баранавічы (Лунінецкі, Ганцавіцкі, Ляхавіцкі, Клецкі р-ны) 2—23.3.1943.

Праводзілася баявымі групамі Бінца (23-ы, 57-ы, 271-ы паліцэйскія батальёны, батальён т. зв. Рускай нацыянальнай народнай арміі пад камандаваннем У. У. *Гіль-Радыёнава* і батальён СС Дырлевангера), Грыпа (2-і паліцэйскі полк), Нікеля (13-ы паліцэйскі полк) пад аб'яднаным камандаваннем обергрупенфюрэра СС Баха-Зелеўскага і брыгадэнфюрэра СС Готберга.

Знішчыць партыз. фарміраванні, якія вырваліся з блакады ў час карнай аперацыі *«Русалка»*, гітлераўцам не ўдалося. Яны загубілі больш за 540 сав. грамадзян, 1226 чал. схапілі для вывазу на катаржныя работы ў Германію. Карнікі разрабавалі і спалілі дзесяткі вёсак, у т. л. Пясчанікі (загубілі 38 чал.), Флярова (23 чал.) Лунінецкага р-на, Залужжа (60 чал.), Рагачы (15 чал.), Свяціца (106 чал.) Ляхавіцкага р-на, Лактышы (12 чал.) Ганцавіцкага р-на і інш., забралі ў на-

**ЦІМАШЭ́НКА** Іван Архіпавіч (н. 18.11. 1924, в. Навінкі Калінкавіцкага р-на), поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПСС з 1962. Скончыў Кіеўскае танк. тэхн. вучылішча (1958). У Чырв. Арміі з 1942 . На фронце з 1944. Механік-вадзіцель танка ст. сяржант Ц. вызначыўся ў баях на тэр. Румыніі, Чэхаславакіі, Аўстрыі. 23.9.1944 у баі за вышыню ўмелым манеўраваннем вывеў танк з-пад абстрэлу і даў магчымасць экіпажу знішчыць варожую пушку; у снеж. 1944 у раёне г. Шагі (Чэхаславакія) прарваўся да р. Іпель і трымаў пад абстрэлам мост, не даў ворагу ўзарваць яго; 30.3.1945 у баі на венскім напрамку захапіў 2 пушкі і мінамёт, паранены, не пакінуў поля бою. Да 1970 у Сав. Арміі, падпалкоўнік.

**ЦІМАШЭ́НКА** Сямён Канстанцінавіч (18.2.1895, с. Фурманаўка Кілійскага р-на Адэскай вобл.— 31.3.1970), Маршал Сав. Саюза (1940), двойчы Герой Сав. Саюза (1940, 1965). Чл. КПСС з 1919. У арміі з 1915, у Чырв. гвардыі з 1917, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік 1-й сусветнай і грамадз. войнаў. У 1933—35 нам. камандуючага войскамі БВА. З 1935 нам. камандуючага, камандуючы войскамі ваенных акруг. Удзельнік вызвалення Зах. Украіны ў 1939,

савецка-фінл. вайны 1939—40. У 1940—41 нарком абароны СССР. У Айч. вайну старшыня Стаўкі Гал. камандавання, пазней у складзе Стаўкі ВГК Узброеных Сіл СССР, нам. наркома абароны, галоўнакамандуючы Зах. і Паўд.-Зах. напрамкамі, камандуючы Зах., Паўд.-Зах., Сталінградскім, Паўн.-Зах. франтамі. З сак. 1943 каардынаваў дзеянні Волхаўскага і Ленінградскага франтоў, з чэрв. Паўн.-Каўказскага фронту і Чарнаморскага флоту, з лютага 1944—1-га і 3-га Прыбалт. франтоў, са жн. 1944—2-га, 3-га і 4-га Укр. франтоў. Пасля вайны камандуючы войскамі Баранавіцкай, Паўд.-Уральскай, Бел. ваен. акруг, з 1960 генеральны інспектар Групы генеральных інспектараў Міністэрства абароны СССР, з 1961 і старшыня Сав. к-та ветэранаў вайны. Чл. ЦК ВКП(б) у 1939—52, канд. у чл. ЦК КПСС з 1952. Чл. ЦК КПБ у 1930—37, 1949—61. Чл. Бюро ЦК КПБ у 1949—60. Чл. ЦВК БССР у 1927—37. Дэп. ВС СССР з 1937. Дэп. ВС БССР у 1951—63. На радзіме ўстаноўлены бюст. Яго імем названа вуліца ў Мінску. Імя Ц. прысвоена Ваен. акадэміі хімічнай абароны, стралк. стадыёну ў Мінску, на будынку штаба БВА мемар. дошка.

**ЦІМКАВІЦКАЯ АПЕРАЦЫЯ 1942,** баі паміж *партызанскай брыгадай імя К. Е. Варашылава* Мінскай вобл. і ням.-фаш. захопнікамі ў в. Цімкавічы Капыльскага р-на і на чыг. ст. Цімкавічы на лініі Баранавічы — Слуцк 16.7.1942.

У вёсцы і на ст. Цімкавічы размяшчаўся гарнізон праціўніка, былі сканцэнтраваны ўправы 3 валасцей, склады з харчаваннем, нарабаваным у насельніцтва суседніх вёсак. Атрымаўшы звесткі аб тым, што на станцыі рыхтуецца да адпраўкі эшалон з харчаваннем для ням. арміі, камандаванне партыз. брыгады імя Варашылава распрацавала план аперацыі па знішчэнню гарнізона і станцыі. Партыз. разведка ўстанавіла месцазнаходжанне пастоў, іх узбраенне і склад. Аперацыяй кіраваў камандзір брыгады П. П. *Капуста*. Па яго загаду атрады брыгады (каля 300 партызан, узброеных 5 станковымі і 12 ручнымі кулямётамі, 20 аўтаматамі, 4 мінамётамі, вінтоўкамі) у 20 гадз 16.7.1942 знялі часавых, пад прыкрыццём кулямётна-мінамётнага агню з некалькіх бакоў атакавалі праціўніка. З-за раптоўнасці нападу гітлераўцы не змаглі аказаць арганізаванага супраціўлення. У выніку аперацыі партызаны разграмілі гарнізон у в. Цімкавічы (20 забітых), гар. і валасную ўправы, знішчылі склады з харчаваннем, разбурылі і спалілі станцыю, вывелі са строю вадакачку, захапілі трафеі і дакументы і ў 22 гадз арганізавана адышлі. Баючыся паўторнага нападу партызан, гітлераўцы да сак. 1943 не асмеліліся зноў размясціць у Цімкавічах гарнізон. У в. Цімкавічы ў гонар партыз. брыгады імя Варашылава ў 1975 устаноўлена мемар. дошка.

*М. У. Філімоненкаў.*

**ЦІМЧУК** Іван Мацвеевіч (14.2.1901, с. Грушка Тлумацкага р-на Івана-Франкоўскай вобл.,—16.10.1982), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт.-камсам. падполля і партыз. руху ў Мінскай, Вілейскай і Віцебскай абл. Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1924. У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Харкаўскі камуніст. ун-т (1929), ВПШ пры ЦК КПСС (1956). Да Айч. вайны на гасп. рабоце. У Айч. вайну ў лют. 1942— лют. 1943 камісар партыз. атрада «Мсцівец», на базе якога створана *партызанская брыгада «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага;* адначасова ў ліст. 1942— вер. 1943 сакратар Лагойскага падп. РК КП(б)Б. З вер. 1943 камісар, у маі — ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады 1-й Антыфашысцкай.* У 1960—68 старшыня Дзярж. к-та СМ БССР па ахове прыроды. Яго імем названы вуліцы на радзіме, у Лагойску, школа ў в. Янушковічы Лагойскага р-на.

**ЦІРШАВА,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на Пн ад в. Росіца Бігосаўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 77 чал. У сак. 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»,* фашысты загубілі 23 жыхароў, вёску (15 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1975 на месцы былой вёскі насыпаны курган, пастаўлена стэла. Вёска ўвекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**ЦІТКОЎ** Іван Піліпавіч (27.8.1912, с. Слабада Бялёўскага р-на Тульскай вобл.—23.7.1982), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Новасібірскі будаўнічы ін-т (1939), ВПШ пры ЦК ВКП(б) (1950), Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1953). З 1941 на фронце. У чэрв. 1942 капітан Ц. накіраваны ў варожы тыл. У кастр. 1942 — чэрв. 1944 камандзір *партызанскай брыгады «Жалязняк».* У 1945—72 на парт. і гасп. рабоце. Яго імем названа вуліца ў г. п. Бягомль. Аўтар кн. «Брыгада Жалязняк» (2 выд. 1982)

**ЦІХАМІРАЎ** Уладзімір Андрэевіч (11.7.1921, в. Запруддзе Мелянкоўскага р-на Уладзімірскай вобл.— 6.6.1976), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай і Мінскай абл., Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1943. Скончыў Харкаўскае ваен. вучылішча (1941). На фронце з 1941, у баях за Нясвіж цяжка паранены, трапіў у палон. Уцёк з лагера смерці, арганізаваў у Чэрвеньскім р-не партыз. групу, з мая 1942 — атрад, камандзір гэтага атрада. У сак. 1943 — ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады 12-й кавалерыйскай імя І. В. Сталіна.* Удзельнік разгрому Квантунскай арміі Японіі (1945). З 1948 жыў у Мінску. Яго імем названа вуліца ў г. п. Чырвоная Слабада Чэрвеньскага р-на.

**ЦІХАНОВІЧ** Міхаіл Рыгоравіч (н. 17.9. 1920, в. Дубаўляны Мінскага р-на), поўны кавалер ордэна Славы. З чэрв.

І. П. Цітхоў. У. А. Ціхаміраў.



1941 на Паўд., Зах., Варонежскім, Цэнтр., 1-м Укр. франтах. Камандзір сапёрнага аддзялення ст. сяржант Ц. вызначыўся ў баях за вызваленне Украіны, Польшчы і Чэхаславакіі. 4.7.1944 з групай сапёраў размініраваў 2 мінныя палі і зрабіў праход у драцяной загародзе праціўніка; 6.11. 1944 пад варожым агнём з групай сапёраў зрабіў праход для разведкі, зняў 25 процітанк. мін; 30.1.1945 у час наступлення выявіў міннае поле, паранены, абясшкодзіў 14 процітанкавых мін. Жыве ў Мінску.

**ЦУБЫ,** браты, героі Вял. Айч. вайны. Нарадзіліся ў в. Навіны (цяпер Цубы) Салігорскага р-на.

Міхаіл Самуілавіч (? — 15. 2. 1943), адмовіўся паказаць дарогу да партызан гітлераўцам, якія праводзілі карную аперацыю *«Горнунг»* супраць Слуцкага і Пінскага партыз. злучэнняў. Расстраляны карнікамі.

Іван Самуілавіч (1873—15.2. 1943), паўтарыў подзвіг І. Сусаніна. Завёў групу карнікаў на забалочаны бераг р. Лань, адкуль яны не змаглі выбрацца. Расстраляны гітлераўцамі. Партызаны знішчылі карнікаў. У гонар братоў в. Навіны перайменавана ў в. Цубы. На радзіме помнік братам (скульпт. С. І. Селіханаў).

**ЦЫГАНКОЎ** Іван Сямёнавіч (н. 1.12. 1919, в. Лапатавічы Клімавіцкага р-на), ген.-лейтэнант (1965). Канд. тэхн. навук (1973). Чл. КПСС з 1940. Скончыў Арт. тэхн. вучылішча (1939), Ваен. акадэмію імя Дзяржынскага (1948). З 1941 да жн. 1943 на Карэльскім фронце, нач. дывізіённай арт. майстэрні, пам. нач. аддзела ўпраўлення начальніка артылерыі фронту і нач. перасоўнай арт. майстэрні. Удзельнік абароны Сав. Запаляр'я.

Пасля вайны да 1981 у Міністэрстве абароны СССР.

**ЦЫРУ́БІН** Дзмітрый Малахавіч (н. 15. 5. 1916, в. Цітоўка Клімавіцкага р-на), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1939. У Чырв. Арміі з 1937. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У перыяд Айч. вайны на фронце з чэрв. 1941. Удзельнік бітваў на Дняпры, Сталінградскай, Курскай; Бабруйскай і Мінскай аперацый 1944, вызвалення Польшчы. Камандзір танк. батальёна маёр Ц. вызначыўся ў баю за плацдарм на р. Нараў. Яго батальён адным з першых фарсіраваў раку, 5.9.1944 на плацдарме адбіў контратаку праціўніка, знішчыў 4 танкі і каля 120 аўтаматчыкаў. Асабіста знішчыў 2 процітанк. гарматы. Да 1957 у Сав. Арміі, палкоўнік. Да 1978 на адм. рабоце.

М. Р. Ціхановіч. Дз. М. Цырубін.





Помнік братам Цубам.

**«ЦЭНТР»,** група армій, аператыўна-стратэгічнае аб'яднанне сухапутных войск фаш. Германіі, якое дзейнічала на цэнтральным участку сав.-германскага фронту і на тэр. Беларусі ў 1941—44. Створана для нападу на СССР (камандуючы ген.-фельдмаршал Ф. Бок), пачала наступленне 22.6.1941 на фронце 500 км ад г. Голдапа да Уладавы (Польшча); першапачаткова аб'ядноўваў 2 палявыя (9-ю і 4-ю) арміі і 2 танк. (3-ю і 2-ю) групы, у якіх было 50 дывізій і 2 матарызаваны брыгады, падтрымліваў 2-і паветр. флот —1600 баявых самалётаў.

Задача групы: акружыць і знішчыць часці Чырв. Арміі на тэр. Беларусі, стварыць умовы для наступлення на Маскву. Група «Ц.» сустрэла ўпартае супраціўленне Чырв. Арміі. Гераічная абарона Брэсцкай крэпасці, арганізаваны адпор ворагу каля Мінска, баі на Бярэзіне каля Барысава і Бабруйска, абарона Віцебска, Магілёва, Гомеля і інш. баі садзейнічалі зрыву гітлераўскага плана «маланкавай вайны». У выніку *Смаленскай бітвы 1941* сав. войскі прымусілі групу «Ц.» часова перайсці да абароны. Для наступлення на Маскву ням. камандаванне сцягнула амаль палавіну ўсіх сіл і баявой тэхнікі, якія знаходзіліся на сав.-германскім фронце. У пач. кастр. 1941 група армій «Ц.» мела 1800 тыс. чал., больш за 14 тыс. гармат і мінамётаў, 1700 танкаў, яе падтрымлівалі каля 1390 самалётаў. У Маскоўскай бітве 1941—42 група «Ц.» пацярпела паражэнне. Камандуючы Ф. Бок заменены фельдмаршалам фон Клюге. У выніку наступлення Чырв. Арміі летам і ўвосень 1943 групе «Ц.» нанесены вял. страты ў Курскай бітве, Смаленскай аперацыі. У ходзе *Беларускай аперацыі 1944* з групы армій «Ц.» (ген.-фельдмаршал Буш) 17 дывізій і 3 брыгады цалкам знішчаны, 50 дывізій страцілі больш за палавіну свайго складу. 28.6.1944 камандуючым прызначаны ген.-фельдмаршал Модэль, з 15.8.1944 — ген.-палк. Рэйнгарт, з студз. 1945 — ген.-палк. Рандуліч. 26.1.1945 група армій «Ц.» перайменавана ў групу армій «Поўнач», а група армій «А» — у групу армій «Ц.», якая разгромлена ў выніку Вісла-Одэрскай, Берлінскай і Пражскай аперацый.

*У. І. Лемяшонак.*

**ЦЭНТРА́ЛЬНЫ КАМІТЭ́Т КП(б)Б,** ЦК КП(б)Б. З першых дзён вайны ЦК КП(б)Б, кіруючыся рашэннямі ЦК ВКП(б), з яго дапамогай і падтрымкай фактычна сканцэнтраваў у сваіх руках усю паўнату ўлады ў рэспубліцы, ператварыўся ў баявы штаб па мабілізацыі ўсіх яе рэсурсаў на барацьбу з ворагам. Выконваючы ўказанні ЦК, парт. к-ты КП(б)Б у чэрв.— жн. 1941 накіравалі ў дзеючую армію 26,5 тыс. камуністаў. На паліт. і камандную работу ў Чырв. Армію пайшлі 30 чл. і 17 канд. у чл. ЦК КП(б)Б, 18 чл. Рэвізійнай камісіі. 1-ы сакратар ЦК П. К. Панамарэнка стаў чл. ваен. савета фронту, сакратары У. Р. *Ванееў*, В. Я. *Уласаў*, І. П. *Ганенка*, П. З. *Калінін*, У. Н. *Малін* — чл. ваен. саветаў армій.

25.6.1941 ЦК КП(б)Б з Мінска перабазіраваўся ў Магілёў, 1 ліп.—у г. п. Лёзна (Віцебская вобл.), 10 ліп.— у Рослаўль (Смаленская вобл.), 16 ліп.— у Гомель, з 20 жн. да 3 кастр. знаходзіўся на Бранскім фронце ў раёне Арла, потым у Маскве. Умовы ваен. часу патрабавалі перабудаваць структуру кіруючых органаў партыі. З сярэдзіны ліп. 1941 у ЦК КП(б)Б працавалі аддзелы ваен., кадраў, арганізацыйна-інструктарскі, агітацыі і прапаганды, асобы сектар і ўпраўленне справамі. Была створана група сувязі і інфармацыі. 30.9.1943 Бюро ЦК КП(б)Б зацвердзіла структуру і штат апарата ЦК, аддзелы арганізацыйна-інструктарскі, прапаганды і агітацыі, кадраў, школ, транспартны, сельскагаспадарчы, ваенны. Апарат ЦК працаваў напружана і дынамічна. З 22.6 да 27.8.1941 Бюро і сакратарыят прынялі і ажыццявілі 170 дырэктыў, распараджэнняў і настаўленняў па мабілізацыі сіл і сродкаў на адпор ворагу, у т. л. *Дырэктыву ЦК КП(б)Б ад 30.6.1941 аб падрыхтоўцы да пераходу на падпольную работу партарганізацый раёнаў, якія знаходзіліся пад пагрозай фашысцкай акупацыі* і *Дырэктыву ЦК КП(б)Б ад 1.7.1941 партыйным, савецкім і камсамольскім арганізацыям па разгортванню партызанскай вайны ў тыле ворага.* З акупацыяй тэр. Беларусі гал. ўвага ЦК КП(б)Б была засяроджана на стварэнні *партыйнага падполля* і развіцці партыз. руху. Вялікую ролю ў гэтым адыгралі сакратары Панамарэнка, Калінін, Ванееў, М. Я. *Аўхімовіч*, Ганенка, Малін, Ц. С. *Гарбуноў*, І. І. *Рыжыкаў*, Р. Б. *Эйдзінаў*. У сак. 1942 ЦК КП(б)Б утварыў *Паўночна-Заходнюю аператыўную групу ЦК КП(б)Б* і *Заходнюю аператыўную групу ЦК КП(б)Б*, якія ўстанаўлівалі і падтрымлівалі непасрэдную сувязь з падп. парт. арг-цыямі і партыз. атрадамі, аказвалі ім усямерную дапамогу. Паводле рашэння Дзярж. камітэта абароны, 9.9.1942 створаны *Беларускі штаб партызанскага руху* (БШПР) — ваенна-аператыўны орган ЦК КП(б)Б. У разгортванні ўсенар. партыз. руху вял. ролю адыграў *лютаўскі Пленум ЦК КП(б)Б 1943*, які абмеркаваў пытанне «Аб абстаноўцы і задачах работы партыйных органаў і партыйных арганізацый у акупіраваных раёнах Беларусі». Для выканання рашэння Палітбюро ЦК ВКП(б) (кастр. 1942) пленум зацвердзіў ваен.-паліт. састаў ЦК КП(б)Б «для работы ва ўмовах ваеннага часу па кіраўніцтву і расшырэнню народнай барацьбы супраць ням. акупантаў...». У яго састаў увайшлі Аўхімовіч, І. С. Былінскі, Ганенка, Гарбуноў, В. С. Забела, М. В. *Зімянін*, Калінін, І. М. *Кардовіч*, В. І. *Казлоў*, М. П. *Каралёў*, І. А. Крупеня, Малін, Р. Н. *Мачульскі*, Панамарэнка, Рыжыкаў, І. Л. *Сацункевіч*, С. І. *Сікорскі*, І. А. *Стулаў*, М. П. *Шмыроў*, Эйдзінаў, Н. Я. Наталевіч.

ЦК КП(б)Б, яго партарганізатары і ўпаўнаважаныя займаліся падборам

і расстаноўкай кіруючых кадраў для работы ў тыле ворага — сакратароў і членаў падп. абласных, міжраённых, гар. і раённых к-таў партыі. Многія камуністы перад накіраваннем на акупіраваную тэр. прайшлі навучанне ў школе парт. і камсам. кадраў, створанай у ліст. 1942 пры ЦК КП(б)Б (гл. *«Беларуская школа»*). У паўсядзённай арганізацыйнай, ваен. і ідэалагічнай рабоце ЦК КП(б)Б апіраўся на шырокую сетку падп. парт. органаў і арг-цый. Пад яго кіраўніцтвам і пры яго дапамозе была вырашана адна з самых складаных і цяжкіх задач — утварэнне шырока разгалінаванай сеткі падп. парт. арг-цый.

ЦК КП(б)Б выдаваў газеты *«Савецкая Беларусь»*, *«Звязда»*, агітплакат *«Раздавім фашысцкую гадзіну»*, сатырычны лісток «Партызанская дубінка». Сотні назваў лістовак, плакатаў, брашур і інш. літаратуры, выдадзеных масавымі тыражамі, засылаліся на акупіраваную тэр. рэспублікі. З вер. 1941 да снеж. 1943 ЦК КП(б)Б разгледзеў і прыняў рашэнні больш чым па 1130 пытаннях, якія датычыліся развіцця ўсенар. барацьбы ў тыле ворага, у т. л. «Аб мерах па паляпшэнню сувязей і кіраўніцтва падпольнымі партыйнымі арганізацыямі і партызанскімі атрадамі Беларусі», «Аб актывізацыі дзейнасці партызанскіх атрадаў у тыле ворага», «Аб узмацненні разведвальнай і контрразведвальнай работы ў партызанскіх атрадах Беларусі», «Аб камсамольскіх работніках у тыле працiўніка», «Аб узмацненні друкаванай прапаганды ў партызанскіх атрадах Беларусі», «Аб мерах па ўзмацненню распаўсюджвання літаратуры ў Беларусі», «Аб прысязе беларускага партызана», «Аб мерах па далейшаму разгортванню партызанскага руху і сетцы партыйных падпольных арганізацый у заходніх абласцях Беларусі», «Аб разбурэнні чыгуначных камунікацый працiўніка метадам «рэйкавай вайны», «Аб ураджаі 1943 г.», «Аб задачах падпольных арганізацый і партызанскіх атрадаў Беларусі па выратаванню насельніцтва ад знішчэння і вывазу ў рабства пры адступленні нямецкіх войск» і інш. Насельніцтву і партызанам было адрасавана 9 спец. зваротаў з заклікам узмацніць усенар. барацьбу супраць ням.-фаш. захопнікаў, мабілізаваць усе сілы і сродкі на дапамогу наступаючай Чырв. Арміі, ратаваць насельніцтва ад знішчэння і вывазу на фаш. катаргу, зрываць планы гітлераўцаў, якія спрабавалі ператварыць Беларусь у зону *«выпаленай зямлі»*. ЦК КП(б)Б падтрымліваў цесную сувязь з з-дамі і ф-камі, працоўнымі Беларусі, якія знаходзіліся ў эвакуацыі. У 1943 па яго рашэнню ў сав. тыле ўзнавілі сваю дзейнасць Белдзяржуніверсітэт (на ст. Сходня пад Масквой) і Мінскі медінстытут (у Яраслаўлі).

Па меры выгнання ням.-фаш. захопнікаў у вызваленых раёнах рэспублікі ЦК КП(б)Б арганізаваў работу па аднаўленню разбуранай акупантамі нар. гаспадаркі, мабілізацыі людскіх і матэрыяльных рэсурсаў для патрэб фронту. З канца 1943 да вызвалення Мінска ЦК КП(б)Б размяшчаўся ў Гомелі. З снеж. 1943 да снеж. 1944 ён разгледзеў і прыняў рашэнне больш як па 1,5 тыс. пытаннях, якія датычыліся аднаўлення нар. гаспадаркі, у т. л. «Аб неадкладных мерах дапамогі па аднаўленню і будаўніцтву жылля калгаснікаў, рабочых і служачых вызваленых раёнаў Магілёўскай, Гомельскай, Палескай і Віцебскай абласцей Беларускай ССР», «Аб аднаўленні калгасаў у вызваленых ад нямецкіх захопнікаў раёнах Беларускай ССР», «Аб бліжэйшых задачах СНК Беларускай ССР і ЦК КП(б)Б ад 1 студзеня 1944 года», «Аб мерапрыемствах па барацьбе з эпідэмічнымі захворваннямі і санітарным аздараўленні вызваленых ад нямецкіх акупантаў раёнаў Беларускай ССР», «Аб працоўным і бытавым уладкаванні інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны», «Аб рэалізацыі пастановы ЦК ВКП(б)» «Аб бліжэйшых задачах партыйных арганізацый КП(б)Б у галіне масава-палітычнай і культурна-асветнай работы сярод насельніцтва», «Аб размяшчэнні эвакашпіталяў Наркамздрава СССР у БССР і аказанні дапамогі ў іх рабоце», «Аб рабоце па расследаванню злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў і іх саўдзельнікаў і ўліку прычыненых імі страт» і інш. Пасля вызвалення тэр. рэспублікі ад ням.-фаш. захопнікаў пераход да аднаўлення разбуранай ворагам нар. гаспадаркі ва ўмовах вайны, якая працягвалася, патрабавалі перабудовы дзейнасці КП(б)Б, яе ЦК, парт. к-таў і арг-цый, змянення метадаў парт. кіраўніцтва. Цэнтральнымі ў арганізатарскай і паліт. рабоце сталі пытанні мабілізацыі людскіх і матэрыяльных рэсурсаў рэспублікі ў інтарэсах фронту, аднаўлення нар. гаспадаркі і культуры. Яны абмяркоўваліся на VI і VII пленумах ЦК КП(б)Б (люты, ліп. 1945).

У гады вайны ЦК КП(б)Б пасяпхова выконваў ролю баявога штаба Кампартыі Беларусі, які накіроўваў усе сілы і сродкі працоўных рэспублікі на дасягненне галоўнай мэты — разгром ням.-фаш. захопнікаў, заваяванне перамогі. Гл. таксама арт. *Камуністычная партыя Беларусі*, *Партыйнае падполле*.

Сакратарамі ЦК КП(б)Б у гады вайны працавалі: П. К. Панамарэнка, П. З. Калінін, У. Р. Ванееў (да кастр. 1941, загінуў), У. Н. Малін, Р. Б. Эйдзінаў, М. Я. Аўхімовіч, І. П. Ганенка (да вер. 1943), Ц. С. Гарбуноў, М. І. *Прохараў*, І. І. Рыжыкаў (1941— вер. 1944).

*У. І. Лемяшонак, Р. П. Платонаў.*



Кіруючыя работнікі ЦК ЛКСМБ у тыле ворага. На пярэднім плане злева направа: М. В. Зімянін, К. Т. Мазураў, М. П. Барашкаў.

**ЦЭНТРА́ЛЬНЫ КАМІТЭ́Т ЛКСМБ** ЦК ЛКСМБ. З першых дзён вайны ЦК ЛКСМБ выступіў баявым памочнікам *Цэнтральнага Камітэта КП(б)Б* па мабілізацыі камсамольцаў і моладзі, усіх сіл і сродкаў рэспублікі на барацьбу супраць ням.-фаш. захопнікаў. Пастановай «Аб задачах камсамольскіх арганізацый Беларусі ў сувязі з ваенным становішчам» ад 28.6.1941 ён аб'явіў ЛКСМБ мабілізаваным на вайну. У звароце да камсамольцаў і моладзі рэспублікі 30.6. 1941 ЦК ЛКСМБ заклікаў іх самааддана абараняць сваю сацыяліст. Ра-

дзіму. У выніку вял. арганізатарскай дзейнасці ЦК, абласных, гар. і раённых к-таў, патрыят. ўздыму камсамольцаў і моладзі за 2 першыя месяцы вайны з 264 620 членаў ВЛКСМ рэспублікі на фронт пайшлі 130 тыс. чал., каля палавіны кадравых камсам. работнікаў. Камсамолам Беларусі засталіся кіраваць 30 з 69 членаў і 2 з 15 кандыдатаў у члены ЦК, якіх выбралі на XIV з'ездзе ЛКСМБ (1940).

У сувязі з акупацыяй ням.-фаш. захопнікамі часткі тэр. БССР з канца чэрв. 1941 па заданню ЦК КП(б)Б ЦК ЛКСМБ пачаў работу па стварэнню ў тыле праціўніка *камсамольска-маладзёжнага падполля,* прыцягненню камсамольцаў і моладзі да партызанскай вайны. 9 ліп. прынята спец. пастанова ЦК ЛКСМБ аб парадку пераходу камсам. арг-цый Беларусі на падп. работу ў раёнах, акупіраваных фаш. войскамі. 6 жн. ў ЦК ЛКСМБ створаны аддзел падп. камсам. арг-цый на чале з К. Т. *Мазуравым* і І. М. Обугавым. У ліп.— жн. 1941 пытанні падрыхтоўкі і фарміравання сеткі падп. органаў і арг-цый, разгортвання барацьбы камсамольцаў і моладзі ў тыле праціўніка разглядаліся на ўсіх пасяджэннях ЦК. З моманту акупацыі і да вызвалення Беларусі ЦК ЛКСМБ асн. ўвагу аддаваў камсам. арг-цыям і моладзі, што былі ў тыле праціўніка (каля 47 тыс. чл. ВЛКСМ не знаходзіліся ў падп. арг-цыях і партыз. атрадах). Апарат ЦК ЛКСМБ быў умацаваны кадрамі. У 1942 замест выбыўшых сакратарамі сталі працаваць Мазураў, С. В. *Прытыцкі*, Ф. А. *Сурганаў;* створана група інструктараў па падп. рабоце, 10 з іх пасля вучобы ў спецшколе (гл. *«Беларуская школа»* партызанскіх кадраў) летам 1942 накіраваны на акупіраваную тэр. Беларусі. Уведзены ін-т упаўнаважаных ЦК ЛКСМБ па абласцях, зонах, гарадах і раёнах, на якіх часова ўскладваліся функцыі адпаведных падп. к-таў. Яны вялі работу па стварэнню новых і ўмацаванню існуючых камсам. к-таў і арг-цый у падполлі і ў партыз. фарміраваннях, актывізацыі іх дзейнасці па прыцягненню моладзі да барацьбы супраць акупантаў. У розны час на акупіраванай тэр. Беларусі працавалі сакратары ЦК ЛКСМБ М. В. *Зімянін,* Мазураў, Прытыцкі, Сурганаў, 17 членаў, 1 кандыдат у члены ЦК ЛКСМБ і 2 члены Рэвізійнай камісіі камсамола Беларусі. Яны мелі права прымаць рашэнні ад імя ЦК, аператыўна разглядалі практычныя пытанні камсам. работы ва ўмовах варожага тылу. Іх арганізатарская дзейнасць непасрэдна на акупіраванай тэрыторыі, кантакты з нізавымі камсам. работнікамі, партызанамі і падпольшчыкамі, удзел у паходах і баях узнімалі баявы дух камсамольцаў і моладзі, садзейнічалі павышэнню ўзроўню работы падп. органаў і арг-цый ЛКСМБ, расшырэнню і ўмацаванню камсам. падполля і партыз. руху.

Знаходзячыся ў сав. тыле (Магілёў, Арлоўская вобл., Масква, Гомель), невялікі, зладжаны апарат ЦК (меў аддзелы кадраў і арганізацыйна-інструктарскі, прапаганды і агітацыі, школ і піянераў, сектары інфармацыі, уліку кадраў і фінансава-гаспадарчы) кіраваў усёй дзейнасцю камсам. арг-цый рэспублікі. Ён вёў падбор, падрыхтоўку, экіпіроўку і засылку з сав. тылу праз лінію фронту камсам. работнікаў абл., міжраённага, гар. і раённага звёнаў, падбіраў іх з асяроддзя партызан і падпольшчыкаў на месцах, ажыццяўляў перамяшчэнне, збіраў ад камсам. органаў неабходную інфармацыю, абагульняў вопыт работы. З вясны 1942 да сярэдзіны 1943 былі ўмацаваны Гомельскі і Пінскі падп. абкомы, якія ўжо дзейнічалі, і створаны новыя ў астатніх абласцях рэспублікі. Народжаныя ў першы перыяд вайны, не прадугледжаныя Статутам ВЛКСМ падп. органы (тройкі, куставыя, міжраённыя к-ты і цэнтры ЛКСМБ) пасля выканання сваіх задач да сак. 1944 былі паўсюдна ліквідаваны. Функцыі ўпаўнаважаных ЦК перайшлі да створаных абкомаў, гаркомаў і райкомаў камсамола. Да пач. 1944 упаўнаважаныя ЦК ЛКСМБ працягвалі дзейнічаць толькі ў некалькіх раёнах Баранавіцкай, Беластоцкай, Брэсцкай і Вілейскай абл. Усяго пад кіраўніцтвам ЦК ЛКСМБ у тыле праціўніка працавала 10 абл., 14 гар., у т. л. 1 гарком-райком, 11 міжраённых і 189 раённых к-таў камсамола, 2600 пярвічных камсам. арг-цый у партыз. фарміраваннях, амаль 3 тыс. падп. камсамольскіх і 335 маладзёжных антыфаш. арг-цый, якія аб'ядналі каля 80 тыс. камсамольцаў-партызан і больш як 20 тыс. падпольшчыкаў.

ЦК ЛКСМБ вывучаў, абагульняў і папулярызаваў найбольш эфектыўныя формы барацьбы моладзі супраць акупантаў. Асаблівую ўвагу аддаваў прыцягненню моладзі да баявой, галоўным чынам дыверсійна-падрыўной дзейнасці на камунікацыях і інш. важных аб'ектах. ЦК ЛКСМБ падтрымаў і развіў ініцыятыву камсамольцаў-партызан па стварэнню камсам.-маладзёжных дыверсійных груп, узводаў, рот і атрадаў. У іх удзельнічала больш за 22 тыс. маладых падрыўнікоў. Тысячы камуністаў уваходзілі ў маладзёжныя і «паляўнічыя» групы. Сумесна з камандаваннем партыз. брыгад і атрадаў ЦК ЛКСМБ прымаў меры па абучэнню маладых партызан падрыўной справе і інш. ваен. спецыяльнасцям. Задачам павышэння баявой актыўнасці моладзі была падпарадкавана і масава-паліт. работа. У ёй прымалі ўдзел усе камсам. работнікі, якія знаходзіліся ў тыле праціўніка, многія з іх з'яўляліся памочнікамі камісараў партыз. фарміраванняў па камсам. рабоце. У дапамогу камсам. агітатарам ЦК ЛКСМБ арганізаваў радыёвяшчанне для моладзі акупіраванай Беларусі, выдаваў у сав. тыле і засылаў у тыл праціўніка брашуры, лістоўкі, плакаты, інш. літаратуру. Сумесна з Мінскім падп. абкомам камсамола выдаваў у тыле ворага 2 рэспубліканскія маладзёжныя газеты — *«Сталинская молодёжь»* і *«Чырвоная змена»*. Усяго ЦК камсамола накіравана на акупіраваную тэрыторыю Беларусі 63 назвы лістовак і 2 плакаты агульным тыражом 3,5 млн. экземпляраў. Па яго ініцыятыве для дзяцей школьнага ўзросту, якія пражывалі ў партыз. зонах і лясных сямейных лагерах, былі створаны школы, піянерскія атрады. Камсамольцы населеных пунктаў, кантралюемых акупантамі, сустракаліся з рабятамі і бацькамі, рэкамендавалі ім формы і метады супраціўлення ворагу. ЦК падтрымліваў пастаянную сувязь з камсам. арг-цыямі эвакуіраваных з Беларусі прадпрыемстваў, маладымі працаўнікамі тылу і воінамі Чырв. Арміі. Пасля вызвалення першага абл. цэнтра рэспублікі ЦК ЛКСМБ пераехаў у Гомель. Разам з кіраўніцтвам барацьбой юнацтва ў тыле праціўніка ён узначаліў дзейнасць камсам. арг-цый на вызваленай тэр. па мабілізацыі моладзі на дапамогу фронту, на аднаўленне нар. гаспадаркі. У ліп. 1944 ЦК ЛКСМБ вярнуўся ў Мінск. Пад яго кіраўніцтвам адраджалася сетка камсам. органаў і арг-цый вызваленай ад акупантаў Беларусі. Гл. таксама *Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі Беларусі, камсамольска-маладзёжнае падполле.*

Сакратарамі ЦК ЛКСМБ у гады вайны працавалі: М. В. Зімянін, А. М. Чэрнікава, І. Л. Яфройкін (да 27.8.1941, мабілізаваны ў Чырв. Армію), М. А. Мінковіч (да 27.8.1941, пераведзены на парт. работу), С. В. Прытыцкі (студз. 1942— чэрв. 1944), Ф. А. Сурганаў (з лют. 1942), К. Т. Мазураў (з жн. 1942), В. І. *Лузгін* (з 25.5.1944), В. І. *Лівенцаў* (з чэрв. 1944). *Р. М. Шавяла.*

**ЦЭНТРА́ЛЬНЫ ФРОНТ** 1-га фарміравання створаны на зах. напрамку 24.7.1941 у выніку падзелу Зах. фронту. Упраўленне фронту створана на базе ўпраўлення расфарміраванай 4-й арміі. У склад фронту ўвайшлі 13-я (ген.-лейт. В. П. *Герасіменка*), 21-я (ген.-лейт. М. Р. *Яфрэмаў*) і з 1 жніўня 3-я (ген.-лейт. В. І. *Кузняцоў*) арміі і група ВПС (ген.-маёр Р. А. Варажэйкін). 21-я армія працягвала пачатую 13.7.1941 *Рагачоўска-Жлобінскую аперацыю 1941,* вяла контрнаступленне на Бабруйск. З 24.7.1941 войскі фронту ўдзельнічалі ў Смаленскай бітве 1941, у ходзе якой былі парушаны разлі-

кі ням.-фаш. камандавання на няспыннае прасоўванне да Масквы. 8.8. 1941 ням. 2-я армія і 2-я танк. група прарвалі Ц. ф. і выйшлі ў глыбокі тыл Паўд.-Зах. фронту. 25.8.1941 Ц. ф. скасаваны, яго палявое ўпраўленне і войскі перададзены ў склад Бранскага фронту.

Камандуючыя: ген.-палк. Ф. І. *Кузняцоў* (ліп.— жв. 1941), ген.-лейт. М. Р. Яфрэмаў; член Ваен. савета — сакратар ЦК КП(б)Б П. К. *Панамарэнка;* нач. штаба: палк. Л. М. *Сандалаў* (ліп.— жн. 1941), ген.-лейт. Р. Р. Сакалоў (жнівень 1941).

**ЦЭНТРАЛЬНЫ ФРОНТ** 2-г а ф а р м і р а в а н н я створаны 15.2. 1943 на базе скасаванага Данскога фронту. У яго склад увайшлі 21-я (ген.-лейт. І. М. *Чысцякоў),* 65-я (ген.-лейт. П. І. *Батаў*), 70-я (ген.-лейт. І. В. Галанін) агульнавайсковыя, 2-я танк. (ген.-лейт. А. Р. *Родзін,* з 10.7.1943 ген.-лейт. С. І. *Багданаў*) і 16-я паветр. (ген.-лейт. С. І. *Рудэнка*) арміі, якія развярнуліся на ПнЗ ад Курска. Пасля ў склад фронту на розныя тэрміны ўваходзілі арміі: 3-я (ген.-лейт. П. П. *Корзун,* з чэрв. 1943 ген.-лейт. А. В. *Гарбатаў*), 13-я (ген.-лейт. М. П. *Пухаў*), 48-я (ген.-лейт. П. Л. Раманенка), 50-я (ген.-лейт. І. В. *Болдзін*), 60-я (ген.-лейт. І. Д. *Чарняхоўскі*), 61-я (ген.-лейт. П. А. *Бялоў*), 63-я (ген.-лейт. У. Я. *Калпакчы*) агульнавайсковыя, 3-я гвардз. танк. (ген.-лейт. П. С. Рыбалка). У лют.— сак. 1943 войскі фронту ўдзельнічалі ў зімнім наступленні, летам — у *Курскай бітве 1943,* Арлоўскай наступальнай аперацыі. Сумесна з войскамі Бранскага і Зах. франтоў войскі Ц. ф. разграмілі арлоўскую групоўку праціўніка і ліквідавалі арлоўскі выступ. У ходзе агульнага стратэгічнага наступлення Чырв. Арміі летам і ўвосень 1943 войскі фронту правялі 26.8—30.9.1943 *Чарнігаўска-Прыпяцкую аперацыю 1943,* у выніку якой прасунуліся да 300 км на З, выйшлі да Дняпра, Прыпяці, Сожа і захапілі плацдарм на гэтых рэках, стварыўшы спрыяльныя ўмовы для вызвалення Беларусі і Правабярэжнай Украіны. 20.10.1943 фронт перайменаваны ў *Беларускі фронт.*

Камандуючы: ген.-палк., з 28.4.1943 ген. арміі К. К. *Ракасоўскі* (люты — кастр. 1943), члены ваен. савета: ген.-маёр, з 24.8.1943 ген.-лейт. К. Ф. Цялегін (люты — кастр. 1943), сакратар ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнка (сак.— крас. 1943), нач. штаба — ген.-лейт., з 18.9. 1943 ген.-палк. М. С. *Малінін* (люты — кастр. 1943). *М. І. Камінскі.*

**ЦЭНТРА́ЛЬНЫ ШТАБ ПАРТЫЗА́НСКАГА РУХУ,** ЦШПР, ваенна-аператыўны орган кіраўніцтва партыз. рухам. Створаны пры Стаўцы ВГК Сав. Узброеных Сіл паводле пастановы Дзярж. к-та абароны ад 30.5.1942, дзейнічаў да 13.1.1944 (у сак. 1943 быў расфарміраваны, у маі зноў адноўлены). Вёў работу ў адпаведнасці з пастановамі ЦК ВКП(б) і Дзярж. к-та абароны. Нач. штаба — 1-ы сакратар ЦК КП(б)Б П. К. *Панамарэнка.*

Гал. задачы ЦШПР: ажыццяўленне кіраўніцтва партыз. рухам з мэтай разгортвання і павышэння эфектыўнасці баявых дзеянняў партызан, арганізацыя ўзаемадзеяння з Чырв. Арміяй, вывучэнне, абагульненне і распаўсюджанне вопыту партыз. барацьбы. Структура ЦШПР мянялася. У вер. 1942 складаўся з 4 упраўленняў: аператыўнага, разведвальна-інфармацыйнага, палітычнага, забеспячэння; 7 аддзелаў: сувязі, дыверсійнай тэхнікі і тактыкі, кадраў, шыфравальнага, фінансавага, сакрэтнага, адм.-гаспадарчага. Меў радыёвузел, пункт збору рэзерваў, экспедыцыйна-транспартную базу, 4 школы па падрыхтоўцы арганізатараў партыз. руху, падрыўнікоў, разведчыкаў, сувязістаў (толькі ў 1942 іх скончылі больш за 6 тыс. чал.). ЦШПР дзейнічаў у кантакце з кіруючымі парт. і сав. органамі рэспублік і абласцей, з ваен. саветамі франтоў і асобных армій, арганізацыйна кіраваў падначаленымі яму рэсп. і абл. штабамі партыз. руху, на Беларусі — *Беларускім штабам партызанскага руху,* меў прадстаўніцтвы на франтах.

Планаванне і кіраўніцтва баявымі дзеяннямі партызан ЦШПР ажыццяўляў у адпаведнасці з стратэгічнымі планамі ВГК. У неабходных выпадках праводзіў перагрупоўку партыз. сіл, засылку ў варожы тыл прадстаўнікоў штабоў партыз. руху і спецыялістаў, цэнтралізавана забяспечваў партызан зброяй, боепрыпасамі, мінна-падрыўной тэхнікай і інш. Прыкладам такіх дзеянняў сталі аперацыі *«Рэйкавая вайна», «Канцэрт».* Разведвальная інфармацыя партыз. фарміраванняў абагульнялася і перадавалася ў Стаўку. 13.1.1944 ЦШПР расфарміраваны.

**ЦЮЛЬГА** Аляксей Мікалаевіч (12.5. 1922, в. Клясіна Краснапольскага р-на Магілёўскай вобл.— 18.11.1953), Герой Сав. Саюза (1944). З 1942 партызан атрада імя Калініна, потым *партызанскай брыгады 1-й Гомельскай.* З 1943 на Бел. і 1-м Укр. франтах, разведчык. Вызначыўся пры вызваленні Польшчы. 29.7.1944 у раёне г. Юзэфаў з 2 разведчыкамі пераправіўся цераз Віслу і разведаў лінію абароны праціўніка. У баі за плацдарм узначаліў групу разведчыкаў, знішчыў 15 гітлераўцаў. У раёне мяст. Кіселін захапіў 2 «языкоў». Пасля вайны працаваў на электрахімкамбінаце. З 1949 у Сав. Арміі. Яго імем названа школа ў в. Леніна Краснапольскага р-на.

**ЦЯБУТ** Дзмітрый Васілевіч (6.11. 1914, в. Пуканаўка Полацкага р-на — 1987), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл., парт. і дзярж. дзеяч БССР. Чл. КПСС з 1939. Скончыў ВПШ пры ЦК КПСС (1962). З 1932 на пед., парт. і сав. рабоце ў Полацкім і Ветрынскім р-нах. З вер. 1941 у Чырв. Арміі. У партызанах з чэрв. 1942: камандзір атрада, у снеж. 1942 — ліп. 1944 *партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава,* адначасова в вер. 1942 сакратар, 2-і сакратар Ветрынскага падп. РК КП(б)Б. З 1944 1-ы сакратар



Начальнік Цэнтральнага штаба партызанскага руху П. К. Панамарэнка гутарыць з партызанамі перад адпраўкай іх у тыл ворага.

Ветрынскага РК КП(б)Б. З 1950 сакратар, 2-і, 1-ы сакратар Полацкага, 2-і сакратар Віцебскага абкомаў КПБ. З 1961 нам. міністра, міністр нарыхтовак БССР. З 1962 1-ы сакратар Мінскага (сельскага) абкома КПБ. У 1964—75 старшыня Мінскага аблвыканкома. Старшыня Рэвізійнай камісіі КПБ з 1976. Чл. ЦК КПБ у 1952—56 і 1961—76, канд. у чл. ЦК КПБ у 1960—61. Дэп. ВС СССР у 1966—74, ВС БССР у 1951—67, з 1980. Аўтар успамінаў «Праз агонь» (3 выд. 1979).

**ЦЯ́БУТ** Міхаіл Андрэевіч (9.9.1913, в. Астраўляны Ушацкага р-на — 24.4. 1975), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1941. Скончыў Мінскі пед. ін-т (1958). З 1934 на пед., гасп. і камсам. рабоце, з 1939 заг. аддзела Пінскага абкома ЛКСМБ. З жн. 1941 кіраўнік групы Ушацкага парт.-камсам. падполля. З чэрв. 1942 нам. камісара брыгады, у ліп. 1943— ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады 2-й Ушацкай імя П. К. Панамарэнкі,* адначасова чл. Ушацкага падп. РК КП(б)Б. З 1944 на сав., парт. і адм.-гасп. рабоце.

**ЦЯМЧУ́К** Васіль Іванавіч (1920, в. Дзедава Быхаўскага р-на — 22.10.1943), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. ВЛКСМ. Да вайны шахцёр у Варашылаўградскай вобл. З чэрв. 1941 на фронце, зенітчык. У складзе гарматнага разліку зенітна-арт. палка яфрэйтар Ц. збіў 5 самалётаў праціўніка. 22.10. 1943 у час налёту на батарэю 27 варожых самалётаў адбіваў атакі пікіруючых бамбардзіроўшчыкаў. Загінуў у гэтым баі. Пахаваны у с. Ходараў Міронаўскага р-на Кіеўскай вобл. Яго імем названа вуліца ў Быхаве. На будынку сярэдняй школы чыг. ст. Тошчыца Быхаўскага р-на ўстаноўлена мемар. дошка.



А. М. Цюльга. В. І. Цямчук. Дз. М. Цяпін. М. Ф. Цяплоў.



Ваенныя заняткі ў школе Цэнтральнага штаба партызанскага руху. 1942.

**ЦЯ́ПІН** Дзмітрый Мікалаевіч (19.11. 1879, в. Анюціна Чэрыкаўскага р-на— 21.1.1978), ганаровы салдат Сав. Арміі. Удзельнік рус.-японскай вайны 1904—05. У 1-ю сусв. вайну служыў у 301-м Бабруйскім пях. палку, кавалер трох Георгіеўскіх крыжоў. У жн. 1941 у роднай вёсцы выратаваў і 28 месяцаў хаваў сцяг 24-й двойчы Чырванасцяжнай Самара-Ульянаўскай Бярдзічаўскай Жалезнай стралковай дывізіі. У кастр. 1943 перадаў сцяг дывізіі, многія салдаты якой раней ваявалі ў Самара-Ульянаўскай. Дывізія атрымала ранейшае найменне. Старшына Ц. пачаў служыць у ёй і быў навечна залічаны ў спісы 1-й стралк. роты 7-га стралк. палка. Увосень 1944, калі да штаба дывізіі, дзе знаходзіўся сцяг часці, прарваліся фашысты, Ц. знішчыў больш за 10 гітлераўцаў. Узнаг. 2 ордэнамі Чырв. Сцяга.

**ЦЯПЛІ́НСКІ** Іосіф Андрэевіч (27.1. 1911, в. Цяплінка Аляксееўскага р-на Белгародскай вобл.— 1987), адзін з кіраўнікоў партыз. руху на тэр. Магілёўскай і Мінскай абл. Чл. КПСС з 1939. З 1929 на гасп. рабоце. З ліп. 1941 на фронце. У партызанах з мая 1942: радавы, нач. штаба, камісар атрада, у сак. 1943— ліп. 1944 *партызанскай брыгады 12-й кавалерыйскай імя І. В. Сталіна.* У 1944—72 на гасп. рабоце ў Мінску.

**ЦЯПЛО́Ў** Міхаіл Фёдаравіч (21.11. 1918, с. Юрос Пінежскага р-на Архангельскай вобл.— 5.7.1944), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1942. У Чырв. Арміі з 1939. На фронце з 1941. Камандзір процітанк. гарматы ст. сяржант Ц. вызначыўся пры разгроме групоўкі ворага ў *мінскім «катле».* 5.7.1944 каля в. Ратькаўшчына Смалявіцкага р-на разлік гарматы Ц. ўдзельнічаў у адбіцці 6 контратак праціўніка, знішчыў 2 самаходныя гарматы, 4 кулямёты, 2 аўтамашыны з пяхотай, каля 150 гітлераўцаў. Паранены, не пакінуў поля бою. Калі астаўся з разліку адзін, падарваў гранатай сябе і гітлераўцаў, што акружылі яго. Пахаваны ў в. Студзёнка Смалявіцкага р-на. Яго імем на радзіме названы саўгас, Дом піянераў, вуліца. У с. Карпагоры Пінежскага р-на і ў в. Студзёнка пастаўлены помнікі.

**ЦЯРО́ХІН** Мікалай Васілевіч (5.5. 1916, с. Чардым Лапацінскага р-на Пензенскай вобл.— 30.12.1942), удзельнік баёў на Беларусі. Чл. КПСС з 1939. Камандзір эскадрыллі знішчальна-бамбардзіровачнага палка, ст. лейтэнант Ц. абараняў Мінск. У пач. ліп. 1941 у адным з паветр. баёў над Магілёвам збіў 3 варожыя бамбардзіроўшчыкі, у т. л. 2 тараніў. На Зах., Калінінскім і Волхаўскім франтах: маёр, камандзір палка 239-й авіядывізіі. Да 30.5.1942 маёр Ц. зрабіў 150 вылетаў і збіў 15 варожых самалётаў. Загінуў у баі.



**ЧА́ВУСЫ,** горад, цэнтр Чавускага р-на, на р. Бася. За 41 км на ПдУ ад Магілёва, чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў — Крычаў, на аўтадарозе Магілёў — Чэрыкаў. У 1939—7,2 тыс. жыхароў. 14.7.1941 зах. ўскраіну горада гераічна абаранялі воіны аднаго з батальёнаў 143-й стралк. дывізіі, якая разгортвалася для абароны ўчастка фронту па р. Проня ад Чавус да Прапойска. 15.7.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія за час акупацыі ў горадзе і раёне знішчылі 1786 чал. На тэр. раёна дзейнічалі Чавускія падп. райкомы КП(б)Б (25.6—1.10.1943) і ЛКСМБ (1.6—1.10.1943), партыз. брыгады 14-я Цемналеская, 17-я, партыз. палкі «Трынаццаць» і 15-ы, асобны партыз. атрад «Чапай» (гл. адпаведныя артыкулы). Падпольшчыкі Ч. падтрымлівалі цесную сувязь з Магілёўскай падп. арг-цыяй Камітэт садзеяння Чырвонай Арміі (гл. *Магілёўскае партыйна-камсамольскае падполле*). Вызвалены 25.6.1944 воінамі 330-й стралк. дывізіі (палк. У. А. Гусеў) 121-га стралк. корпуса і 385-й стралк. дывізіі (палк. М. Ф. Супруноў) 38-га стралк. корпуса 50-й арміі 2-га Бел. фронту ў ходзе *Магілёўскай аперацыі 1944* ва ўзаемадзеянні з партызанскім палком «Трынаццаць» (камандзір С. У. *Грышын*). У Ч. брацкія магілы сав. воінаў, партызан, ахвяр фашызму, загінуўшых у гады вайны, на якіх пастаўлены помнікі, помнік ахвярам фашызму; мемар. дошкі Герою Сав. Саюза Л. Я. *Маневічу*, у гонар сав. воінаў-вызваліцеляў.

**ЧАЙКО́ЎСКІ** Андрэй Ціханавіч (28.12. 1910, в. Вял. Скарэдна Арамашаўскага р-на Цюменскай вобл.— 24.9.1980), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай і Брэсцкай абл. Чл. КПСС з 1939. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КПБ (1954). З 1932 у Чырв. Арміі. У партызанах з вер. 1941: камандзір групы, камісар атрада, у студз.— лют. 1943 і вер. 1943 — ліп. 1944 камісар, у лютым — вер. 1943 камандзір *партызанскай брыгады 99-й імя Дз. Ц. Гуляева,* адначасова чл. Кляшчэмскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—68 на парт. і адм.-гасп. рабоце.

**ЧАРАПНЕ́Ў** Сяргей Міхайлавіч (1918, в. Шніткі Лёзненскага р-на — 14.6. 1944), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1942, у Чырв. Арміі з 1938. На фронце з 1941. Штурман авіяэскадрыллі цяжкіх бамбардзіроўшчыкаў далёкага дзеяння гвардыі капітан Ч. за вайну зрабіў 237 начных баявых вылетаў і 94 вылеты для забеспячэння сав. войск боепрыпасамі і гаручым; у складзе экіпажа даставіў 76 т боепрыпасаў і медыкаментаў, закінуў у тыл ворага 35 дэсантнікаў, раскідаў 5400 тыс. лістовак, разбурыў 4 варожыя пераправы, 2 чыг. вузлы, спаліў 7 складоў з боепрыпасамі і гаручым, знішчыў 5 самалётаў, 11 танкаў, 37 аўтамашын, стварыў 112 ачагоў пажару ў размяшчэнні варожых войск. Загінуў у Дэмбліне(ПНР).

**ЧАРБАМЫ́СЛЫ,** вёска на тэр. Полацкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 5 км ад в. Вялікае Сітна Маласітнянскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 48 чал. 10.1.1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 28 жыхароў, у т. л. 9 дзяцей, вёску (15 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. На месцы вёскі пастаўлены мемар. знак. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ЧАРКА́САЎ** Васіль Аляксеевіч (19.7. 1908, Варонеж — 3.7.1978), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Вілейскай вобл. Чл. КПСС з 1928. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КПБ (1954). З 1926 рабочы. З 1929 у Чырв. Арміі. У партызанах з 1941: з 28 чэрв. камандзір групы, пам. камандзіра, з чэрв. 1942 камандзір атрада, у снеж. 1943— ліп. 1944— *партызанскай брыгады імя С. М. Будзённага.* З 1944 на сав. і парт. рабоце, з 1962 у ДТСААФ. Яго імем названы завулак у г. Ашмяны.

**ЧАРНАГЛА́З** Зуся Якаўлевіч (н. 12.9. 1903, в. Галавачова Чавускага р-на), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Ельскага р-на. Чл. КПСС з 1927. З 1938 2-і сакратар Ельскага РК КП(б)Б. У пачатку Айч. вайны пакінуты ў тыле ворага для арганізацыі падп. барацьбы, з жн. 1941 сакратар, у жн. 1943— студз. 1944 чл. Ельскага падп. РК КП(б)Б, адзін з арганізатараў групы па кіраўніцтву партыз. рухам на тэр. Ельскага р-на (з вер. 1941 у партыз. атрадзе Качышчанскім), адначасова ў лют.— крас. 1943 камісар Ельскага партыз. атрада (гл. ў арт. *Партызанская брыгада 37-я Ельская*). У 1944—61 1-ы сакратар Ельскага РК КП(б)Б, на парт. рабоце ў Мазыры і Гомелі.

**ЧАРНІГА́ЎСКА-ПРЫПЯ́ЦКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1943,** наступальная аперацыя 26 жн.— 30 вер. войск Цэнтр. фронту (ген. арміі К. К. Ракасоўскі); частка *бітвы за Днядро 1943*. Удзельнічалі арміі: 13-я (ген.-палк. М. П. Пухаў), 48-я (ген.-лейт. П. Л. Раманенка), 65-я (ген.-лейт. П. І. Батаў), 60-я (ген.-лейт. І. Д. Чарняхоўскі), 61-я (ген.-лейт. П. А. Бялоў), 2-я танк. (ген.-лейтэнанты танк. войск А. Р. Родзін да 9.9.1943, С. І. Багданаў), 16-я паветр. (ген.-лейт. авіяцыі С. І. Рудэнка). Войскам Цэнтр. фронту процістаялі ням.-фаш. 2-я армія і частка войск 9-й арміі групы армій «Цэнтр», частка войск 4-й танк. арміі групы армій «Поўдзень». Сав. камандаванне планавала: нанесці гал. ўдар на




ноўгарад-северскім, дапаможны — на канатопскім напрамках і выйсці да сярэдняга цячэння Дняпра. 26 жн. войскі Цэнтр. фронту перайшлі ў наступленне. На гал. напрамку, пераадолеўшы ўпартае супраціўленне праціўніка, злучэнні 2-й танк. і 65-й армій авалодалі 27 жн. г. Сеўск, аднак да зыходу 31 жн. ўкліняліся ў абарону праціўніка толькі на 20—25 км. На дапаможным напрамку злучэнні 60-й арміі хутка прарвалі варожую абарону, 30 жн. занялі Глухаў і, прасунуўшыся 31 жн. на 60 км, увайшлі на тэр. Украіны. Каб развіць поспех, на канатопскі напрамак былі перакінуты 2-я танк. і 13-я арміі, 4-ы арт. корпус прарыву, іх падтрымлівала 16-я паветр. армія. Праціўнік, каб ліквідаваць прарыў на

стыку армій «Цэнтр» і «Поўдзень», увёў у бітву 2 танк., 3 пях. дывізіі, буйныя сілы авіяцыі, але прыпыніць наступленне сав. войск не здолеў. 3 вер. войскі левага крыла Цэнтр. фронту на Пд ад Ноўгарад-Северскага выйшлі да Дзясны, потым з ходу фарсіравалі р. Сейм, вызвалілі 6 вер. Канатоп, 9 вер. Бахмач, 15 вер. Нежын. Выкарыстаўшы гэты поспех, войскі правага крыла фронту таксама выйшлі да Дзясны і фарсіравалі яе з ходу, вызвалілі 16 вер. Ноўгарад-Северскі. Войскі левага крыла фронту фарсіравалі Дзясну, 21 вер. вызвалілі Чарнігаў і выйшлі да Дняпра. За імі да Дняпра выйшлі і інш. войскі фронту. 22 вер. часці 13-й арміі з ходу фарсіравалі Дняпро, 23 вер. вызвалілі райцэнтр БССР г. п. Камарын, захапілі плацдарм на правым беразе р. Прыпяць. Потым цераз Дняпро пераправіліся злучэнні 60-й і 61-й армій. 48-я і 65-я арміі, што наступалі на гомельскім напрамку, авалодалі двума невялікімі плацдармамі на правым беразе р. Сож, 27 вер. воіны 65-й арміі вызвалілі райцэнтр г. п. Церахоўка. Вялікую дапамогу войскам аказалі партызаны, якія захапілі на Дняпры і Прыпяці некалькі пераправаў, а таксама зрывалі перавозкі ням.-фаш. войск у ходзе аперацыі *«Канцэрт»*. У выніку Ч.-П. а. сав. войскі прасунуліся да 300 км на З. Да канца верасня войскі Цэнтр. фронту замацаваліся на плацдармах, што мела важнае значэнне для правядзення наступных аперацый па вызваленню Беларусі і Правабярэжнай Украіны.

**ЧАРНІГАЎСКА-РЭ́ЧЫЦКАЯ ШТУРМАВА́Я АВІЯЦЫ́ЙНАЯ ДЫВІЗІЯ** гвардзейская ордэна Леніна, Чырванасцяжная, ордэна Суворава. Сфарміравана ў маі 1942 як 228-я штурмавая авіяцыйная дывізія ў складзе 3 палкоў. З 9.6.1942 у складзе 8-й, з 13.9.1942—16-й паветр. армій Паўн.-Зах. фронту. Удзельнічала ў Сталінградскай бітве, 18.3. 1943 пераўтворана ў 2-ю гвардз. штурмавую авіяц. дывізію. У ліп.—жн. 1943 удзельнічала ў баях пад Курскам і Арлом, у жн.— вер. 1943— у *Чарнігаўска-Прыпяцкай аперацыі 1943*. Вызначылася ў баях пры фарсіраванні войскамі Цэнтр. фронту р. Дзясна і вызваленні г. Чарнігаў, дывізіі нададзена ганаровае найменне «Чарнігаўскай» (21.9. 1943); пры вызваленні войскамі Бел. фронту г. Рэчыца ў перыяд *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943* ёй нададзена ганаровае найменне «Рэчыцкай» (18.11.1943). У студз.— лют. 1944 удзельнічала ў *Калінкавіцка-Мазырскай аперацыі 1944* і *Рагачоўска-Жлобінскай аперацыі 1944*. За выдатнае выкананне баявых заданняў узнаг. ордэнам Чырв. Сцяга (15.1. 1944). У перыяд *Беларускай аперацыі 1944* дывізія выконвала задачу па авіяцыйнай падтрымцы войск 1-га Бел. фронту ў ходзе прарыву вельмі ўмацаванага рубяжа абароны праціўніка на бабруйскім напрамку і разгроме яго акружанай групоўкі ў раёне Бабруйска (гл. *Бабруйская аперацыя 1944*). Часці дывізіі паспяхова наносілі ўдары па ворагу пры вызваленні войскамі фронту гарадоў Жлобін, Слуцк, Баранавічы, Брэст і інш. За баявыя подзвігі ў Бел. аперацыі дывізія ўзнаг. ордэнам Суворава II ступені (2.7.1944). У 1945 удзельнічала ў Варшаўска-Пазнанскай і Берлінскай аперацыях, узнаг. ордэнам Леніна (11.6.1945). За час вайны дывізія зрабіла больш за 18 тыс. самалёта-вылетаў, знішчыла і падавіла вял. колькасць баявой тэхнікі і жывой сілы праціўніка. За ўзорнае выкананне баявых заданняў больш як 2 тыс. яе воінаў узнаг. ордэнамі і медалямі СССР, 32 з іх прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

Камандзіры: палк. В. В. Сцепічаў (май — кастр. 1942), падпалк., з 15.11. 1942 палк., з 13.4.1944 ген.-маёр авіяцыі Г. І. Камароў (кастр. 1942 — да канца вайны). *М. І. Камінскі.*

**ЧАРНО́Ў** Кірыла Пракопавіч (8.6.1907, в. Амяленская Слабада Бабруйскага р-на — 28.10.1972), Герой Сав. Саюза (1943), ген.-маёр артылерыі (1953). Чл. КПСС з 1930. У Чырв. Арміі з 1929. Скончыў Аб'яднаную бел. ваен. школу імя ЦВК БССР (1933), Вышэйшую афіцэрскую арт. школу (1944). З 1941 на Паўд.-Зах., Сталінградскім, 1-м і 3-м Укр. франтах, камандзір знішчальнага процітанк. арт. палка, брыгады. Удзельнік Сталінградскай, Курскай бітваў, баёў на воз. Балатан. Падпалкоўнік Ч. вызначыўся ў вер. 1943 у баях на тэр. Украіны, пры фарсіраванні Дняпра і ў баях на плацдарме. Да 1961 у Сав. Арміі.

**ЧАРНЫ́Ш** Аляксандр Іванавіч (12.2. 1917, в. Кромавічы Докшыцкага р-на — 29.6.1944), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1944. Скончыў Мар'інагорскі сельгастэхнікум (1935). Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. З 1941 на Ленінградскім, Закаўказскім, Бел. і 1-м Бел. франтах. Камандзір стралк. роты капітан Ч. вызначыўся пры вызваленні Беларусі: 28.6.1944 каля г. п. Кіраўск рота Ч. атакавала групу праціўніка, знішчыла 170, узяла ў палон 27 гітлераўцаў; 29.6.1944 зайшла ў тыл ворага, перарэзала шлях адступлення па дарозе Бабруйск — Мінск, адбіла 14 контратак танкаў і пяхоты, знішчыла 200 і ўзяла ў палон 80 гітлераўцаў. Загінуў у гэтым баі. Яго імем названы саўгас у Докшыцкім р-не, СПТВ у Бабруйску, вуліцы ў Бягомлі, Кіраўску, у в. Калініна Бабруйскага р-на; у в. Бярозкі Докшыцкага р-на пастаўлены бюст, у в. Кромавічы на доме, дзе жыў Ч., мемар. дошка.

С. М. Чарапнёў. К. П. Чарноў. А. І. Чарныш. В. Я. Чарнышоў. С. І. Чарняк. І. Д. Чарняхоўскі.



**ЧАРНЫШО́Ў** Васіль Яўхімавіч (26.8. 1908, с. Краснае Лівенскага р-на Арлоўскай вобл. — 12.11.1969), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на Беларусі, сав., парт. і дзярж. дзеяч. Ген.-маёр (1943). Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1928. Скончыў Бранскі камуніст. ун-т (1930). Да вайны 1-ы сакратар Жлобінскага, Васілішкаўскага райкомаў, Баранавіцкага абкома КП(б)Б. З 1942 упаўнаважаны ЦК КП(б)Б і ЦШПР па Баранавіцкай вобл., у сак. 1943— ліп. 1944 сакратар *Баранавіцкага падпольнага абкома КП(б)Б*, адначасова з крас. 1943 камандзір *Баранавіцкага партызанскага злучэння*. З 1944 1-ы сакратар Брэсцкага, Мінскага абкомаў КП(б)Б. У 1950 сакратар ЦК КП(б)Б. З 1951 1-ы сакратар

Калінінградскага абкома, з 1959—Прыморскага крайкома КПСС. З 1969 нам. старшыні К-та парт. кантролю пры ЦК КПСС. Чл. ЦК КПСС з 1952. Чл. ЦК КПБ у 1949—52, чл. Бюро ЦК КП(б)Б у 1949—51. Дэп. ВС СССР з 1950. Яго імем названы саўгас у Баранавіцкім р-не, тэхнікум у г. Баранавічы, вуліца ў г. Кобрын. У Баранавічах і в. Петкавічы Баранавіцкага р-на ўстаноўлены мемар. дошкі.

**ЧАРНЯ́К** Сцяпан Іванавіч (16.12.1899, в. Чарневічы Барысаўскага р-на — 20.7.1976), ген.-маёр (1944), Герой Сав. Саюза (1940). Чл. КПСС з 1920. У Чырв. Арміі з 1918. Скончыў Ленінградскую пях. школу (1924), курсы «Выстрал» (1930), курсы Вышэйшага каманднага саставу пры Ваен. акадэміі Генштаба (1941). Удзельнік грамадз., нац.-рэв. вайны 1936—39 у Іспаніі, сав.-фінл. вайны 1939—40. Дывізія пад яго камандаваннем вызначылася ў час прарыву лініі Манергейма. У Айч. вайну ў Чарнаморскім флоце: пам. камандуючага флотам па пяхоце; на Калінінскім і 1-м Бел. франтах: камандуючы арміяй, нам. камандзіра стралк. корпуса, камандзір дывізіі. Удзельнік вызвалення Беларусі, Польшчы, штурму Берліна. Да 1958 у Сав. Арміі.

**ЧАРНЯ́ЎСКІ** Георгій Раманавіч (8.12. 1911, г. Чавусы — 13.6.1974), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1932. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1950), ВПШ пры ЦК КПСС (1956). З 1930 на прафс., камсам. і парт. рабоце, з 1940 1-ы сакратар Нараўлянскага РК КП(б)Б. З жн. 1941 па заданню ЦК КП(б)Б у тыле ворага: камісар *партызанскага атрада Нараўлянскага,* з ліст. ў распараджэнні ЦК КП(б)Б. У партызанах з жн. 1942: камісар атрада, у кастр. 1942— сак. 1943 *партызанскай брыгады «За Радзіму» імя А. К. Флегантава,* у крас.— вер. 1943 сакратар Мінскага падп. РК КП(б)Б, потым у распараджэнні ЦК КП(б)Б. У 1944—69 на парт., сав. і гасп. рабоце.

**ЧАРНЯХО́ЎСКІ** Іван Данілавіч (29.6. 1906, г. Умань Чаркаскай вобл.— 18.2.1945), ген. арміі (1944). Двойчы Герой Сав. Саюза (1943, 1944). Чл. КПСС з 1928. У Чырв. Арміі з 1924. Скончыў Ваен. акадэмію механізацыі і матарызацыі РСЧА (1936). У 1938—41 у БВА — камандзір танк. палка, нам. камандзіра танк. дывізіі. З 1941 на Паўн.-Зах., Варонежскім, Цэнтр., 1-м Укр. франтах: камандзір танк., стралк. дывізій, танк. корпуса, камандуючы 60-й арміяй. З крас. 1944 камандуючы войскамі 3-га Бел. фронту, якія ўдзельнічалі ў *Беларускай аперацыі 1944,* разам з 1-м Прыбалт. фронтам здзейснілі *Віцебска-Аршанскую аперацыю 1944,* а з 1-м і 2-м Бел. франтамі *Мінскую аперацыю 1944,* стварылі *мінскі «кацёл»,* у які трапіла больш чым 100-тысячная групоўка праціўніка; вызвалілі Віцебск, Оршу, Барысаў, Мінск, Ліду, Вільнюс, першыя ўварваліся ва Усх. Прусію, выйшлі на подступы да Кёнігсберга. Каля г. Мельзак (цяпер ПНР) Ч. смяротна паранены. Пахаваны ў Вільнюсе, на магіле помнік. У Умані бронзавы бюст. Каля в. Рэдзькі Дубровенскага р-на на месцы каманднага пункта Ч. мемар. пліта, у в. Сцешыцы Вілейскага р-на бюст. Яго імем названы горад у Калінінградскай вобл., дзе на прывакзальнай плошчы пастаўлены бюст, калгасы ў Вінніцкай вобл., вуліцы ў Брэсце, Віцебску, Гомелі, Гродне, Магілёве, Мінску і інш. гарадах, гар. пасёлках і вёсках Беларусі.

**«ЧАРО́ЎНАЯ ФЛЕ́ЙТА»** («Zauberflüte»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць падпольшчыкаў, партызан і мясцовага насельніцтва Мінска 17—22.4.1943.

Праводзілася сіламі паліцыі бяспекі і СД т. зв. генеральнай акругі «Беларусь», 2-га ням. паліцэйскага палка, батальёна 23-га палка СС, асобага батальёна СС Дырлевангера, узмоцненай штабной роты, 12-й танк. роты, часцей вермахта (2800 гітлераўцаў), ахоўных часцей, падраздзяленняў, групы запасу, палявой жандармерыі. На досвітку 17 крас. Мінск акружылі часці вермахта, на выхадах былі пастаўлены кантрольныя пасты. Горад падзелены на 6 частак, кожную з якіх блакіравалі карнікі. Фашысты прачосвалі ўсе жылыя дамы і руіны, правяралі цягнікі, з горада нікога не выпускалі.

На зборныя пункты было сагнана каля 52 тыс. чал. Мужчын 14—60 гадоў, жанчын 16—45 гадоў забіралі для вывазу на катаржную працу ў Германію. У час аперацыі карнікі сустрэлі ўзброенае супраціўленне сав. патрыётаў.

*В. С. Лазебнікаў, У. С. Пасэ.*

**ЧАСНЫ́К** Мікалай Лявонцьевіч (н. 26.10.1921, Орша), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1942. Скончыў Барысаглебскую школу ваенных лётчыкаў (1941), Ваенна-паветр. акадэмію (1952). У Чырв. Арміі з 1940. З 1941 на Паўн.-Зах. фронце: лётчык-знішчальнік, камандзір звяна, эскадрыллі знішчальнага авіяпалка асобага прызначэння. Зрабіў 685 баявых вылетаў, удзельнічаў у 46 паветр. баях, збіў 27 варожых самалётаў. 7.7.1944 быў збіты і трапіў у палон. Удзельнік паўстання вязняў у канцлагеры Бухенвальд. Да 1958 служыў у ППА, палкоўнік. Працуе ў Паўн.-Каўказскім упраўленні грамадзянскай авіяцыі ў Растове-на-Доне.

**ЧАЦВЁРТАЯ А́РМІЯ.** Сфарміравана ў жн. 1939 у Бел. Асобай ваен. акрузе на базе Бабруйскай армейскай групы. З 11.7.1940 у Зах. Асобай ваен. акрузе, прыкрывала брэсцка-мінскі напрамак. Напярэдадні вайны аб'ядноўвала 28-ы стралк. і 14-ы механіз. карпусы, 62-і УР, шэраг арт. і інш. часцей. З пачаткам уварвання ням.-фаш. войск армія ў складзе Зах. фронту вяла цяжкія абарончыя баі з намнога большымі сіламі праціўніка, вымушана была адыходзіць з раёна Брэста на Кобрын, Бабруйск. У пач. ліп. была выведзена ў рэзерв фронту і пасля даўкамплектавання з 15 ліп. працягвала ўпартыя абарончыя баі на левым беразе р. Сож у раёне г. Прапойск (Слаўгарад). У канцы ліп. 1941 расфарміравана. На базе палявога ўпраўлення 4-й арміі сфарміравана палявое ўпраўленне Цэнтральнага фронту.

Камандуючыя арміі: ген.-маёр А. А. Карабкоў (чэрв. 1941), палк. Л. М. *Сандалаў* (чэрв.— ліп. 1941). *М. І. Камінскі.*

**ЧАЦВЁРТАЯ ПАВЕ́ТРАНАЯ А́РМІЯ.** Сфарміравана ў маі 1942 на базе ВПС Паўд. фронту ў складзе 6 авіяц. дывізій і 7 асобных мяшаных палкоў. Уваходзіла ў склад Паўд., Паўн.-Каўказскага і Закаўказскага франтоў, удзельнічала ў абарончых баях у Данбасе і на Доне, у баях за Каўказ, Новарасійск, Кубань, вясной 1944 у вызваленні Крыма. З лета 1944 да мая 1945 армія (2 штурмавыя, 2 знішчальныя і 1 бамбардзіровачная авіядывізіі, 2 асобныя авіяпалкі і 2 зенітныя арт. палкі) уваходзіла ў склад 2-га Бел. фронту і прымала ўдзел у *Беларускай аперацыі 1944,* у т. л. *Магілёўскай аперацыі 1944, Мінскай аперацыі 1944, Беластоцкай аперацыі 1944,* вызваленні гарадоў Магілёў, Мінск, Гродна і інш. У час вызвалення Беларусі лётчыкі арміі зрабілі 14 тыс. самалёта-вылетаў і нанеслі праціўніку вял. страты ў жывой сіле і тэхніцы. Удзельнічала таксама ў Усх.-Прускай, Усх.-Памеранскай і Берлінскай аперацыях. За час вайны армія зрабіла больш за 300 тыс. самалёта-вылетаў, 41 360 яе воінаў узнаг. ордэнамі і медалямі СССР, 17 часцей і злучэнняў пераўтвораны ў гвардзейскія, 76 авіяц. злучэнняў і часцей узнаг. ордэнамі, 46 злучэнням і часцям нададзены ганаровыя найменні, 277 лётчыкам і штурманам прысвоена званне Героя Сав. Саюза, 4 з іх удастоены гэтага звання двойчы, у т. л. А. М. *Яфімаў.*

Камандуючыя: ген.-маёр, з сак. 1943 ген.-лейт., з кастр. 1943 ген.-палк. К. А. *Вяршынін* (май — вер. 1942 і май 1943— май 1945), ген.-маёр М. Ф. Навуменка (вер. 1942— крас. 1943).

*М. І. Камінскі.*

**ЧАЦВЁРТАЯ УДА́РНАЯ А́РМІЯ.** Сфарміравана ў снеж. 1941 на Паўн.-Зах. фронце шляхам пераўтварэння 27-й арміі. У яе склад увайшлі 5 стралк. дывізій, 1 стралк. брыгада, шэраг танк., лыжных, арт. і інш. часцей. З студз. 1942 у складзе Калінінскага фронту, удзельнічала ў Таропецка-Холмскай аперацыі 1942: ва

ўзаемадзеянні з 3-й ударнай арміяй ва ўмовах суровай зімы і бездарожжа вызваліла сотні населеных пунктаў, у т. л. гарады Андрэапаль, Зах. Дзвіна, Тарапец. У пач. лютага выйшла на подступы да Веліжа і Дзямідава. У выніку гэтага наступлення ўтварыўся 40-кіламетровы пралом у лініі ням. фронту паміж Веліжам і Усвятамі на стыку груп фаш. армій



М. Л. Часнык. С. І. Чубукоў.

«Поўнач» і «Цэнтр» (гл. *Віцебскія «вароты»*). На гэтым участку да пач. кастр. 1943 армія адбівала шматлікія атакі ням.-фаш. войск і моцна трымала займаемы рубеж. Перыядычна яе войскі вялі асобныя наступальныя баі, каб палепшыць свае пазіцыі. З 20.10.1943 армія ў складзе 1-га Прыбалт. фронту прымала ўдзел у Невельскай аперацыі 1943, у ліст.— снеж. 1943— у наступальных баях на віцебскім напрамку, у прынатнасці ў *Гарадоцкай аперацыі 1943*, у выніку якой яе войскі выйшлі у раён на ПнЗ ад Віцебска, дзе перайшлі да абароны. Летам 1944 армія ўдзельнічала ў вызваленні Беларусі і Прыбалтыкі (гл. *Беларуская аперацыя 1944*). У *Полацкай аперацыі 1944* яна, дзейнічаючы на гал. напрамку, прарвала добра ўмацаваную абарону праціўніка, разграміла частку сіл 16-й ням.-фаш. арміі і выйшла ў раён на ПнЗ ад Полацка. Пры вызваленні Полацка (4.7.1944) вызначыліся 332-я стралк. дывізія, 171-ы асобны танк. батальён і 2-я інж. сапёрная брыгада, якім былі нададзены ганаровыя найменні «Полацкіх»; 360-я стралк. дывізія ўзнаг. ордэнам Чырв. Сцяга. У складзе 1-га і 2-га Прыбалт. франтоў армія ўдзельнічала ў *Рэжыцка-Дзвінскай аперацыі 1944*, у Рыжскай і Мемельскай аперацыях, у блакадзе фаш. групы армій «Курляндыя». За мужнасць, гераізм і адвагу ў гады вайны дзесяткі тысяч воінаў арміі ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР, 24 з іх прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Шэраг злучэнняў і часцей арміі ўзнаг. ордэнамі і ўдастоены ганаровых найменняў.

Камандуючыя: ген.-палк. А. І. Яроменка (снеж. 1941— лют. 1942), ген.-лейт. П. І. Голікаў (люты — сак. 1942), ген.-маёр, з 21.5.1942 ген.-лейт. У. В. Курасаў (сак. 1942— крас. 1943), ген.-маёр Дз. М. Селязнёў (крас.— май 1943), ген.-маёр, з 16.10.1943 ген.-лейт. В. І. Швецаў (май — снеж. 1943), ген.-лейт. П. Ф. *Малышаў* (снеж. 1943— да канца вайны).

**ЧАЧЭ́РСК,** горад, цэнтр Чачэрскага р-на, прыстань на р. Сож пры ўпадзенні ў яе р. Чачора. За 65 км на Пн ад Гомеля, за 37 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская на лініі Гомель — Жлобін, аўтадарогамі звязаны з Кармой, Веткай, аўтамагістраллю Гомель — Магілёў. У 1938—71 гар. пасёлак. 5,1 тыс. жыхароў у 1939. У пач. вайны ў Ч. дзейнічаў эвакапункт, у гар. пасёлку і раёне сфарміраваны знішчальны батальён, атрад нар. апалчэння (камандзір Ляўковіч). Рабочыя-добраахвотнікі з Ч. змагаліся ў складзе Гомельскага нар. апалчэння. 14.8.1941 у раёне Ч. падраздзяленні 21-й арміі вялі баі з часцямі 2-й ням. арміі, якія прарваліся. 16.8.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў Ч. і раёне 1137 чал., у т. л. ў гар. пасёлку каля 500 чал. У Ч. і раёне дзейнічалі Чачэрскія падп. РК КП(б)Б (16.8. 1941—2.10.1943) і ЛКСМБ (май — 2.10.1943), з мая 1942 Чачэрскі райвыканком (у в. Валасевічы), партыз. брыгады 10-я Журавіцкая, 1-я Гомельская, «Бальшавік», «Уперад», асобныя партыз. атрады Добрушскі, 3-і (гл. адпаведныя артыкулы). выдавалася падп. газ. *«Смерть оккупантам»*. Вызвалены 27.11.1943 воінамі 169-й стралк. дывізіі (ген.-маёр Я. П. Яроменка) 10-га стралк. корпуса, 4-га штурмавога інж.-сапёрнага батальёна (маёр П. К. Кручкоў) 61-й арміі Бел. фронту ў ходзе *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943*. У Ч. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, сярод пахаваных карэспандэнт «Комсомольской правды» Л. А. *Карастаянава;* 2 магілы ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі.

*Т. І. Паваляхіна.*

**ЧА́ШНІКІ,** горад, цэнтр Чашніцкага р-на, на р. Ула. За 95 км на ПдЗ ад Віцебска, 3 км ад чыг. ст. Чашнікі на лініі Орша — Лепель, аўтадарогамі звязаны з Лепелем, Сянно, Новалукомлем. 3,5 тыс. жыхароў у 1939. 5.7.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў Ч. і раёне 3610 сав. грамадзян. У горадзе і раёне дзейнічалі *Чашніцкае партыйнае падполле*, Чашніцкія падп. райкомы КП(б)Б (15.9.1942—28.6. 1944) і ЛКСМБ (1.8.1942—28.6.1944), партыз. брыгады 1-я Смаленская, 2-я Бел. імя Панамарэнкі (2-га складу), 2-я імя Заслонава, Багушэўская (2-га складу), «Граза», М. П. Гудкова, імя А. Ф. Данукалава, Лёзненская, Сенненская, Чашніцкая «Дубава», партыз. полк Смаленскі, асобны партыз. атрад Ц. Я. Ермаковіча (гл. адпаведныя артыкулы); выдавалася падп. газ. *«Сцяг сацыялізма»*. У студз. 1943 партызаны Чашніцкай брыгады «Дубава» ў выніку трохдзённых баёў знішчылі льнозавод і пякарню. У час *Лепельскай аперацыі 1943* байцы Смаленскага партыз. палка вялі жорсткія баі супраць гітлераўскага гарнізона (гл. *Чашніцкія баі 1943*). Вызвалены 27.6.1944 воінамі 357-й стралк. дывізіі (камандзір ген.-маёр А. Г. Кудраўцаў) 1-га стралк. корпуса 43-й арміі 1-га Прыбалт. фронту пры ўзаемадзеянні з партызанамі брыгады Чашніцкай «Дубава» (камандзір Ф. Ф. *Дуброўскі*) у ходзе *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944*. У Ч. 2 брацкія магілы сав. воінаў і партызан, на якіх пастаўлены помнікі; помнікі Вызвалення і землякам; мемар. дошка Героям Сав. Саюза Л. У. *Буткевічу*, Я. Г. *Навіцкаму*, С. Ф. *Пшоннаму* і сав. воіну А. П. Церашкову.

*В. В. Гетаў.*

**ЧА́ШНІЦКАЕ ПАРТЫ́ЙНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала з жн. 1941 да крас. 1942 у Чашніцкім р-не. Кіруючы орган («цэнтр»): С. Е. Папкоў (кіраўнік), У. Т. Гаваркоўскі, Д. А. Кіркіж, М. П. Корбан, Р. Е. Корбан, П. Д. Лазарэвіч, М. С. Марціновіч. Займалася разгортваннем партыз. руху на тэр. Чашніцкага р-на. Падпольшчыкі вялі паліт. работу сярод насельніцтва, распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро. У жн. 1941 былі створаны і ўзброены 2 баявыя групы — В. А. Захарчанкі і А. Л. Сухушына; 1-я з іх вырасла ў партыз. атрад Захарчанкі, які ўваходзіў у Сенненскую брыгаду, 2-я ўлілася ў атрад «Сібірак» (пазней у складзе брыгады «За Савецкую Беларусь»).

У барацьбе з акупантамі загінулі: Я. І. Калістаў, Д. А. Кіркіж, М. П. і Р. Е. Корбаны, П. Д. Лазарэвіч, С. А. Марціновіч, С. Е. Папкоў, Ф. У. Смаляк, І. І. Удалы, В. П. Шлык, Н. Р. Эсманд. У гонар падпольшчыкаў і партызан у в. Грынькі ў 1975 устаноўлена мемар. дошка.

*А. Ф. Маркава.*

**ЧА́ШНІЦКІЯ БАІ́ 1943,** баі паміж *партызанскай брыгадай Чашніцкай «Дубава»* 19—22.1.1943, *партызанскім палком Смаленскім* 19—21.10.1943 і ням.-фаш. акупантамі ў г. п. Чашнікі.

План разгрому гарнізона ў г. п. Чашнікі, які налічваў каля 300 гітлераўцаў, распрацаваны ў студз. 1943 камандаваннем Чашніцкай брыгады. У яго ажыццяўленні ўдзельнічалі 1-ы, 2-і і 3-і атрады брыгады (320 чал.).

19 студз. партызаны блакіравалі Чашнікі і на працягу 3 дзён абстрэльвалі гар. пасёлак з гарматы. 22 студз. на дапамогу абложанаму гарнізону з в. Бачэйкава Бешанковіцкага р-на выйшла падмацаванне. Партызаны, якія кантралявалі шашу Бачэйкава — Чашнікі, узарвалі мост цераз р. Ула на Пн ад в. Іванск Чашніцкага р-на і завязалі з акупантамі бой, які працягваўся 2 гадзіны. З-за перавагі сіл праціўніка з наступленнем цемна-

ты партызаны адышлі ў распаложэнне брыгады. У выніку трохдзённых баёў партызаны забілі і паранілі больш за 100 гітлераўцаў, захапілі трафеі, знішчылі льнозавод і пякарню.

Бой у кастр. 1943 з'яўляўся састаўной часткай *Лепельскай аперацыі 1943*, якая праводзілася пад камандаваннем сакратара Чашніцкага падп. райкома КП(б)Б ген.-маёра Ф. Ф. *Дуброўскага* ў адпаведнасці з указаннем ЦК КП(б)Б і загадам ЦШПР у мэтах садзеяння наступленню Чырв. Арміі. Смаленскаму партыз. палку па плану аперацыі ставілася задача авалодаць Чашніцкім гарнізонам (каля 700 гітлераўцаў, абсталяваны 4 лініямі ўмацаванняў і дзотамі). У ноч на 20 кастр. партыз. полк (2-і, 3-і і 4-ы батальёны) атакаваў праціўніка і выбіў яго з займаемых пазіцый. Ашаломленыя націскам партызан гітлераўцы схаваліся ў цагляных будынках касцёла, бальніцы, школы, дома культуры, потым на працягу дня арганізавалі 4 контратакі, якія былі адбіты партызанамі. У ноч на 21 кастр. партызаны зноў атакавалі праціўніка. Бой працягваўся ўвесь дзень. Да абложаных гітлераўцаў з г. Сянно падышло падмацаванне. У партызан скончыліся боепрыпасы, і яны пад прыкрыццём дымавой заслоны адышлі, страціўшы ў гэтым баі 27 чал. забітымі. У 1965 у г. Чашнікі на брацкай магіле партызан, якія загінулі ў Ч. б. ў кастр. 1943, пастаўлены помнік.

*М. Ф. Шумейка.*

**«ЧЕ́РВЕНСКИЙ ПАРТИЗАН»,** газета, заснавана ў 1930. У час ням.-фаш. акупацыі орган Чэрвеньскага падп. РК КП(б)Б. Вядома 37 нумароў за 23.12. 1942—22.6.1944 на рус. мове (асобныя нумары на бел. мове). Рэдактар У. А. Шыдлоўскі. Пасля вызвалення выдавалася пад назвай «Калектывіст», з 1962 «Уперад», орган Чэрвеньскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**ЧУБУКО́Ў** Сямён Ісакавіч (7.1.1907, в. Кузьмінічы Чавускага р-на—29.6. 1983), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1931. У Чырв. Арміі з 1929. Скончыў курсы «Выстрал» (1940), Вышэйшую бранятанк. школу (1948). З 1941 на Зах., Цэнтр. і 1-м Прыбалт. франтах: нам. камандзіра, камандзір вучэбнага, потым танк. батальёна. Удзельнік баёў пад Масквой, вызвалення Беларусі. Маёр Ч. вызначыўся ў Курскай бітве ў ліп. 1943. Танкавы батальён пад яго камандаваннем першы фарсіраваў р. Выцебець, захапіў в. Ягаднае Калужскай вобл., разбіў значныя сілы праціўніка. Да 1954 у Сав. Арміі, падпалкоўнік. Яго імем названа вуліца ў г. Чавусы.

**ЧУ́ДЗІНСКІ БОЙ 1942,** бой паміж партыз. атрадам В. А. Васільева (гл. ў арт. *Партызанская брыгада імя У. І. Леніна* Пінскай вобл.) і ням.-фаш. захопнікамі ў в. Чудзін Ганцавіцкага р-на 11.10.1942.

Ням.-фаш. гарнізон у в. Чудзін, які налічваў каля 40 гітлераўцаў, узброеных 4 кулямётамі, аўтаматамі і вінтоўкамі, уяўляў значную небяспеку для партыз. атрада, бо ў выпадку блакады Арлікоўскага лесу закрываў партызанам свабодны выхад цераз р. Морач у лясы Ганцавіцкага р-на.

Камандаванне атрада (камандзір В. А. *Васільеў,* камісар І. В. Зібараў) распрацавала план разгрому гарнізона. У ноч на 11 кастр. атрад сканцэнтраваўся за 2 км на Пн ад в. Чудзін, два аддзяленні партызан зрабілі засады на дарогах у вёскі Гаўрыльчыцы Лунінецкага р-на і Колкі Клецкага р-на, каб не даць праціўніку магчымасці выйсці з гарнізона. Два ўзводы акружылі вёску. На досвітку 11 кастр. ўдарнае аддзяленне партызан зняло вартавога, і партызаны ўварваліся ў гарнізон. У выніку 1,5-гадзіннага бою ўзвод аховы, які засеў у будынку гарнізона, быў часткова знішчаны, частка гітлераўцаў прарвалася на ўсх. ўскраіну вёскі, адтуль уцякла і схавалася ў балотах. У ходзе вулічнага бою, які цягнуўся 2 гадз, партызаны знішчылі 6 і ўзялі ў палон 2 гітлераўцаў, захапілі 6 радыёпрыёмнікаў, 4 веласіпеды, 8 вінтовак, запас патронаў. Гарнізон у в. Чудзін акупанты не аднаўлялі, што павялічыла партыз. зону.

*М. Ф. Шумейка.*

**ЧУЙКО́Ў** Васіль Іванавіч (12.2.1900, г. п. Сярэбраныя Пруды Маскоўскай вобл.—18.3.1982), двойчы Герой Сав. Саюза (1944, 1945), Маршал Сав. Саюза (1955). Чл. КПСС з 1919. У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Вызначыўся пры вызваленні Лепеля ў 1920. Узнаг. 2 ордэнамі Чырв. Сцяга, Ганаровай залатой зброяй. Скончыў Ваенную акадэмію імя Фрунзе (1925). З 1936 камандаваў брыгадай, корпусам, Бабруйскай армейскай групай войск. У сав.-фінл. вайну 1939—40 камандуючы арміяй. З 1942 на Сталінградскім, Данскім, Паўд.-Зах., 3-м Укр. і 1-м Бел. франтах. З 1942 камандуючы 1-й рэзервовай, потым 62-й (8-й гвардз.) арміяй, якая вызначылася ў *Сталінградскай бітве 1942—43* і ў *бітве за Днянро 1943.* Удзельнік вызвалення Украіны, Польшчы, Бел. і Берлінскай аперацый. З 1945 намеснік і 1-ы нам. галоўнакамандуючага, з 1949 галоўнакамандуючы Групай сав. войск у Германіі, Галоўнаначальствуючы сав. ваен. адміністрацыі і старшыня Сав. кантрольнай камісіі ў Германіі. З 1953 камандуючы войскамі Кіеўскай ваен. акругі. З 1960 галоўнакамандуючы Сухапутнымі войскамі — нам. міністра абароны СССР, нач. Грамадз. абароны СССР. З 1972 ген. інспектар Групы ген. інспектараў Міністэрства абароны СССР. Канд. у чл. ЦК КПСС у 1952—61, чл. ЦК КПСС з 1961. Дэп. ВС СССР з 1946. Пахаваны на Мамаевым кургане ў Валгаградзе. Яго імем названа вуліца ў Лепелі. Ганаровы грамадзянін г. Лепель.

**ЧУКЛА́Й** Іван Іванавіч (1920, в. Прудзіны Бешанковіцкага р-на — 3.9. 1942), удзельнік партыз. руху ў Пінскай вобл. Чл. КПСС з 1942. Перад вайной ст. піянерважаты школы ў Пінску. З чэрв. 1941 у партыз. атрадзе Камарова (В. З. *Каржа*), адначасова з чэрв. 1941 чл. Пінскага падп. абкома ЛКСМБ. Загінуў, прыкрываючы цяжкапараненага камісара атрада. Імя Ч. прысвоена партыз. атраду (гл. *Партызанскі атрад імя І. І. Чуклая),* яго імем названы вуліцы ў Пінску, Салігорску, Бешанковічах; у Пінску пастаўлены бюст.

**ЧУЛІ́ЦКІ** Мікалай Мікалаевіч (20.1. 1910, в. Крупец Добрушскага р-на — 24.6.1979), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1941. Скончыў ВПШ пры ЦК ВКП(б) (1949). З 1930 на камсам., культурна-асветнай, прафс. і журналісцкай рабоце ў Магілёве і Жлобіне. У 1941—42 на будаўніцтве чыгункі ў Омскай і Цюменскай абл. З сак. 1942 у Чырв. Арміі. У партызанах з мая 1942, у ліп. 1943— чэрв. 1944 камісар *партызанскай брыгады «Дзядзькі Колі»,* адначасова чл. Барысаўскага падп. гаркома-райкома КП(б)Б. Пасля вайны нам. заг., заг. аддзела Бабруйскага абкома, 1-ы сакратар Клічаўскага РК КПБ. У 1958—72 выкладчык Магілёўскай сав.-парт. школы. Канд. у чл. ЦК КПБ у 1954—60.

**ЧУХНЮ́К** Алена Міронаўна (н. 12.3. 1917, в. Дзякіўка Бершадскага р-на Вінніцкай вобл.), Герой Сацыяліст. Працы (1943). Чл. КПСС з 1941. Скончыла Маскоўскі ін-т інжынераў чыг. транспарту (1950). У 1938—41 працавала ў Гомельскім паравозным дэпо. У 1942—45 машыніст 4-й калоны асобага рэзерву Наркамата шляхоў зносін, дамагалася высокіх хуткасцей ваджэння воінскіх эшалонаў, забяспечвала дастаўку грузаў да лініі фронту. Пасля вайны інжынер на ст. Гомель, у Міністэрстве шляхоў зносін СССР. Дэп. ВС СССР у 1946—50.

**ЧЫ́ЖАЎСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ МІЖРАЙКО́М КП(б)Б.** Дзейнічаў з 21.11.1943 да 13.7.1944 пад кіраўніцтвам *Беластоцкага падпольнага абкома КП(б)Б.* Ажыццяўляў кіраўніцтва парт. падполлем і партыз. рухам на тэр. Чыжаўскага і Замбраўскага р-наў, накіроўваў дзейнасць Замбраўскага і Чыжаўскага падп. райкомаў ЛКСМБ. Састаў міжрайкома: А. А. *Стома* (сакратар); члены: А. І. *Мурашка,* М. Дз. Трухан (абодва з 5.3.1944). Друкаваны орган — газ. *«Патриот Родины».* Базіраваўся ў *партызанскай брыгадзе імя В. І. Чапаева* Беластоцкай вобл.

*М. І. Эпалетаў.*

**ЧЫРВОНАСЛАБО́ДСКІ БОЙ 1942,** бой

партыз. атрада В. А. Васільева (гл. ў арт. *Партызанская брыгада імя У. І. Леніна*) супраць ням.-фаш. захопнікаў у г. п. Чырвоная Слабада 31.10.1942. Варожы гарнізон у Чырвонай Слабадзе налічваў больш за 130 чал., быў добра ўзброены. План аперацыі дакладна распрацаваны: з мэтай дэзінфармацыі праціўніка былі распаўсюджаны чуткі, што атрад

В. І. Чуйкоў. І. М. Чысцякоў.



адыходзіць з раёна да новага месца дыслакацыі, праведзена разведка колькасці і размяшчэння асабовага складу гарнізона, узбраення, сістэмы ўмацаванняў.

30 кастр. атрад выйшаў з Арлікоўскага лесу і да 1 гадз. ночы заняў зыходныя рубяжы. 3 узводы партызан перакрылі дарогі ў г. п. Старобін, г. Слуцк і в. Семежава, перарэзалі тэлефонную лінію сувязі. У 4 гадзіны раніцы па сігналу штурмавыя групы атакавалі будынкі, дзе размяшчаліся асноўныя сілы праціўніка. Упартае супраціўленне аказалі жандары, участак якіх быў прыкрыты дзотамі, толькі пасля прыбыцця дадатковых партыз. груп жандарскі ўчастак быў знішчаны. Бой працягваўся каля 5 гадз. Партызаны знішчылі і ўзялі ў палон 13 гітлераўцаў, вызвалілі з турмы 8 чал., захапілі 8 вінтовак, 45 гранат, 2 тыс. патронаў, грузавую аўтамашыну, матацыкл, 4 радыёпрыёмнікі, 2 пішучыя машынкі, вял. колькасць прадуктаў. Слуцкі гебітскамісар паведамляў, што партызаны спалілі будынкі жандармерыі, паліцэйскай аховы, раённага ўпраўлення, жылыя дамы фаш. адміністрацыі, 3 склады са збожжам і сенам, млын, лесапільню, электрастанцыю... Далейшае знаходжанне раённага ўпраўлення, жандармерыі і паліцыі ў горадзе немагчыма. Усе справы і дакументы згарэлі... Гітлераўскія службы былі вымушаны пакінуць Чырвоную Слабаду. У памяць пра бой у 1961 у Чырвонай Слабадзе ўстаноўлена мемар. дошка. *М. Ф. Шумейка.*

**ЧЫРВО́НАЯ А́РМІЯ,** гл. *Узброеныя Сілы СССР*.

**«ЧЫРВО́НАЯ ЗАРА́»,** газета, заснавана ў 1931 пад наз. «Калгаснік». У час ням.-фаш. акупацыі орган Чырвонаслабодскага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 46 нумароў за 20.8.1943—24.7. 1944 на бел. мове. № 1 ад 20.8.1943 называўся «Калгаснік Чырвонаслабодчыны». Рэдактары: М. П. Кожураў, І. Ф. Санікові́ч (з вер. 1943). Пасля вызвалення выдавалася да 1959 пад той жа назвай, орган Чырвонаслабодскага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**«ЧЫРВО́НАЯ ЗВЯЗДА́»,** газета, заснавана ў 1939 пад наз. «Голас рабочага». У час ням.-фаш. акупацыі орган *Баранавіцкага падпольнага абкома КП(б)Б*. Вядомы 86 нумароў за 26.4. 1943—4.7.1944 на бел. і рус. мовах. Рэдактары: Р. А. Старавойценка, Г. В. *Будай* (з 14.2.1944). Пасля вызвалення выдавалася пад той жа назвай, з 1963 «Знамя коммунизма», орган Баранавіцкіх райкома і гаркома КПБ, раённага і гар. Саветаў нар. дэпутатаў.

**«ЧЫРВО́НАЯ ЗВЯЗДА́»,** газета, заснавана ў 1935 пад наз. «Сталінец». У час ням.-фаш. акупацыі орган Ветрынскага падп. РК КП(б)Б. Вядома 10 нумароў за 1.8.1943—2.4.1944 на бел. і рус. мовах. Рэдактар М. Р. Кацман. Пасля вызвалення выдавалася да 1960 пад той жа назвай, орган Ветрынскага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**«ЧЫРВО́НАЯ ЗМЕ́НА»,** камсамольска-маладзёжная газета, орган ЦК ЛКСМБ. Заснавана ў 1921. У час ням.-фаш. акупацыі орган *Цэнтральнага Камітэта ЛКСМБ* і *Мінскага падпольнага абкома ЛКСМБ*. Друкавалася ў друкарні *Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б*. Вядома 38 нумароў за 31.1.1943—9.1.1944 на бел. мове. Рэдактар М. П. *Барашкаў*. Пасля вызвалення выдаецца пад той жа назвай, орган ЦК ЛКСМБ.

**ЧЫРВО́НАЯ СЛАБАДА́,** гар. пасёлак у Салігорскім р-не, на р. Вызенка. За 30 км на ПнЗ ад Салігорска, аўтадарогамі звязана з Любанню, Мікашэвічамі, Слуцкам, Салігорскам. У 1924—59 цэнтр Чырвонаслабодскага р-на. 3,1 тыс. жыхароў у 1939. Акупіравана 27.6.1941 ням.-фаш. захопнікамі, якія толькі восенню 1941 знішчылі тут 420 жыхароў, у ліп. 1941 у Чырвонаслабодскім р-не арганізаваны партыз. атрад на чале з сакратаром РК КП(б)Б М. І. Жукоўскім (гл. *Партызанскі атрад М. І. Жукоўскага*), які ў ліп. 1941 зрабіў паспяховы налёт на ням.-фаш. гарнізон у Ч. С. У ноч на 31.10.1942 гарнізон разгромлены партыз. атрадам В. А. Васільева (гл. *Партызанская брыгада імя У. І. Леніна* Пінскай вобл.). На тэр. раёна дзейнічалі Чырвонаслабодскія падп. райкомы КП(б)Б (ліп.— вер. 1941, 7.4.1943— 1.7.1944) і ЛКСМБ (10.3.1943—1.7. 1944), партыз. брыгады 32-я імя Калініна, 300-я імя Варашылава, 12-я кав. імя Сталіна, брыгада імя Варашылава, 20-я імя В. С. Грызадубавай (гл. адпаведныя артыкулы). Вызвалена 30.6.1944 воінамі 20-га стралк. корпуса (ген.-маёр М. А. Шварыоў) 28-й арміі, 19-й мотастралк. брыгады (палк. У. В. Яршоў) 1-га механіз. корпуса конна-механіз. групы 1-га Бел. фронту і партыз. брыгадамі 12-й кав. імя Сталіна і 32-й імя Калініна ў ходзе *Беларускай аперацыі 1944*. У Ч. С. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі; помнік землякам, якія загінулі; мемар. дошка ў гонар партызан. *Н. У. Капранава.*

**ЧЫРВО́НЫ АРА́ТЫ,** вёска на тэр. Кіраўскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 4 км на З ад в. Грыбавец Грыбавецкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 230 чал. 15.6.1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 222 жыхароў, вёску (28 двароў) спалілі, маёмасць разрабавалі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь*.

**«ЧЫРВО́НЫ ПАРТЫЗА́Н»,** газета, орган Карэліцкага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 13 нумароў за 13.2—4.7.1944 на бел. мове. Рэдактар Р. С. Радкевіч. Пасля вызвалення выдавалася да 1956 пад наз. «Красное знамя», орган Карэліцкага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**«ЧЫРВО́НЫ СЦЯГ»,** газета, заснавана ў 1939. У час ням.-фаш. акупацыі орган Маладзечанскага падп. РК КП(б)Б. Вядома 13 нумароў за май 1943—1.5.1944 на бел. і рус. мовах. Пасля вызвалення выдавалася пад той жа назвай, з 1957 «Сцяг Кастрычніка», з 1963 «Святло камунізму», орган Маладзечанскіх райкома і гаркома КПБ, раённага і гар. Саветаў нар. дэпутатаў.

**«ЧЫРВО́НЫ СЦЯГ»,** назва № 68 за жн. 1943 газеты *«Смерть фашизму»*, органа Браслаўскага падп. РК КП(б)Б.

**«ЧЫРВО́НЫ СЦЯГ»,** газета, орган Свірскага падп. РК КП(б)Б. Вядома 6 нумароў за кастр. 1943— студз. 1944 на бел. мове (асобныя нумары на рус. мове). Рэдактары: С. Р. Сакомскі, І. І. Бабоўка. Пасля вызвалення выдавалася пад той жа назвай, з ліст. 1944 «Сталінскі шлях», у 1956—59 «Зара», орган Свірскага РК КПБ і раённага Савета дэп. працоўных.

**«ЧЫРВО́НЫ ХЛЕБАРО́Б»,** газета, заснавана ў 1931 пад назвай «Калгаснік Талачыншчыны». У час ням.-фаш. акупацыі орган Талачынскага падп. РК КП(б)Б. Выходзіла ў 1943—44. Вядома 7 нумароў за 15.3—5. 12.1943 на бел. і рус. мовах. Рэдактар А. П. Пахамовіч. Пасля вызвалення выдавалася пад той жа назвай, з 1960 «Ленінец», з 1962 «Сцяг Ільіча», орган Талачынскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**ЧЫСТО́ВА** (Янкоўская) Вера Аляксандраўна (н. 30.9.1919, с. Даўшына, Пашахонскі р-н Яраслаўскай вобл.), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсам.-маладзёжнага падполля ў Беластоцкай вобл. Чл. КПСС з 1941. Скончыла Рэсп. парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1949), Мінскі пед. ін-т (1965). З 1937 на пед. рабоце. З лютага 1943 пам. упаўнаважанага ЦК ЛКСМБ па Беластоцкай вобл.,

адначасова член, з 23. 9.1943 да 15.7. 1944 сакратар *Беластоцкага падпольнага абкома ЛКСМБ*, у маі — ліп. 1944 сакратар Ваўкавыскага падп. РК ЛКСМБ. З 1944 сакратар Гродзенскага абкома ЛКСМБ. У 1945—74 на парт. рабоце.

**ЧЫСЦЯКОЎ** Іван Міхайлавіч (27.9. 1900, в. Атрубніва Кашынскага р-на Калінінскай вобл.—7.3.1979), Герой Сав. Саюза (1944), ген.-палкоўнік (1944). Чл. КПСС з 1926. У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Вышэйшыя акадэмічныя курсы пры Ваен. акадэміі Генштаба (1949). З 1941 на Зах., Паўн.-Зах., Калінінскім, Данскім, Паўд.-Зах., Варонежскім, 2-м і 1-м Прыбалт. франтах: камандзір стралк. брыгады, дывізіі, корпуса, камандуючы арміяй. Войскі пад яго камандаваннем удзельнічалі ў Маскоўскай, Сталінградскай, Курскай бітвах, Бел., Шаўляйскай, Рыжскай, Мемельскай аперацыях. Вызначыўся пры вызваленні Віцебскай вобл. 6-я гвардз. армія пад камандаваннем Ч. 23.6. 1944 прарвала абарону праціўніка ў Сіроцінскім р-не на ўчастку Валатоўкі — Новая Ігуменшчына, вызваліла в. Сіроціна; 24—25.6.1944 шырокім фронтам выйшла да Зах. Дзвіны, фарсіравала яе, захапіла плацдарм каля в. Шчэцькі, Дворышча, Мамойкі, адрэзала віцебскую групоўку праціўніка ад полацкай. Войскі 6-й гвардз. арміі 4.7.1944 авалодалі г. Полацк. Удзельнік разгрому Квантунскай арміі Японіі ў 1945. Пасля вайны да 1968 на камандных пасадах у Сав. Арміі, у Міністэрстве абароны СССР. Дэп. ВС СССР у 1946—50 і ў 1954—58.

**ЧЫТАВЎХІ**, вёска на тэр. Гарадоцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на Пд ад в. Забарочча Хмяльніцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 48 чал. У сак. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 21 жыхара, вёску (11 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ЧЫЧКОВА** Клаўдзія Іванаўна (22.1. 1921, в. Сняжкова Тамбоўскай вобл.— 11.5.1944), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсам.-маладзёжнага падполля і партыз. руху на тэр. Беластоцкай вобл. Чл. КПСС з 1944. Добраахвотніцай пайшла на фронт. У жн. 1943 скончыла спецшколу пры БШПР (гл. *«Беларуская школа»*), накіравана на акупіраваную тэр. Скідзельскага р-на. З 1.9.1943 да 11.5. 1944 сакратар Скідзельскага падп. РК ЛКСМБ. Удзельнічала ў баявых дзеяннях партыз. атрада імя Аляксандра Неўскага, пусціла пад адхон 8 варожых эшалонаў. У маі 1944 з групай партызан была акружана гітлераўцамі і, каб не трапіць у палон, застрэлілася. Яе імем названа вуліца ў Скідзелі. Імя Ч. занесена ў Кнігу гонару ЦК ЛКСМБ.

**ЧЭРВЕНЬ**, горад, цэнтр Чэрвеньскага р-на, на р. Чэрвенка. За 62 км на У ад Мінска, за 30 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск — Асіповічы, каля аўтадарогі Мінск — Магілёў, звязаны аўтадарогамі з Мар'інай Горкай і Смалявічамі. 6,4 тыс. жыхароў у 1939. Акупіраваны 2.7.1941 ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў горадзе і раёне 7561 чал. На тэр. горада і раёна дзейнічалі Чэрвеньскія падп. райкомы КП(б)Б (кастр. 1942—3.7.1944) і ЛКСМБ (2.7.1941—3.7. 1944), партыз. брыгады М. М. Нікіціна, 1-я Мінская, «За Савецкую Беларусь», імя Шчорса, «Разгром», «Чырвоны Сцяг», імя газеты «Праўда», імя Кірава, 1-я Асіповіцкая, асобныя партыз. атрады А. Я. Васілеўскага, «Мясцовыя», 210-ы імя Сталіна (гл. адпаведныя артыкулы); выдавалася падп. газ. *«Червенский партизан»*. Вызвалены 2.7.1944 у ходзе *Мінскай аперацыі 1944* воінамі 110-й стралк. дывізіі (палк. С. М. Тарасаў) 38-га стралк. корпуса 2-га Бел. фронту, 348-й стралк. дывізіі (ген.-маёр М. А. Нікіцін) 35-га стралк. корпуса 1-га Бел. фронту, партызанамі атрадаў імя Жукава (А. Г. Собаль) і імя Будзённага (А. І. Драптусаў) партыз. брыгады імя Кірава і атрада імя Калініна (У. Ц. Буцікаў) партыз. брыгады імя газеты «Праўда». У Ч. 5 брацкіх магіл сав. воінаў, магіла ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі; помнікі землякам, Вызвалення, Герою Сав. Саюза Г. П. Барыкіну, А. К. *Флеганта ву*, падпольшчыцы М. М. Матусевіч і партызанцы Л. Шамецька; мемар. дошка ў гонар Чэрвеньскага падп. РК КП(б)Б. Працуе музей нар. славы пры СШ № 2. *У. М. Якубоўскі.*

**ЧЭРКАС** Людвіг Станіслававіч (н. 9.12. 1923, Полацк), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1945. Скончыў Ваен. акадэмію бранятанк. войск (1954). З 1941 на Зах., 2-м Укр. і 1-м Бел. франтах. Удзельнік бітвы пад Масквой, вызвалення Украіны, Беларусі, Польшчы, бітвы за Берлін. Камандзір кулямётнай роты ст. лейтэнант Ч. вызначыўся пры вызваленні г. Радзееў (Польшча). Штурмавая група на чале з Ч. 19.1.1945 прарвала ўмацаваную абарону праціўніка і прабілася ў горад. Ч. у гэтым баі знішчыў 30 гітлераўцаў, цяжка паранены, не пакінуў поля бою. Удзельнік *Парада Перамогі* 24.6.1945 у Маскве. Да 1958 у Сав. Арміі, палк.-інжынер. Працуе заг. сектара НДІ.

**ЧЭРЫКАЎ**, горад, цэнтр Чэрыкаўскага р-на, на р. Сож. За 77 км на ПдУ ад Магілёва, за 32 км ад чыг. ст. Крычаў, аўтадарогамі звязаны з Магілёвам, Краснаполлем, Слаўгарадам, Крычавам. 6,4 тыс. жыхароў у 1939. У сярэдзіне ліп. 1941 у раёне Ч. ішлі цяжкія абарончыя баі. У горадзе быў створаны батальён народнага апалчэння (камандзір Г. А. *Храмовіч*). З 15.7.1941 падвяргаўся бесперапынным масіраваным налётам авіяцыі праціўніка. Праз Ч. і Прапойск ням.-фаш. войскі рваліся да Гомеля. Рубеж ад Крычава да Ч. абаранялі 28-ы стралк. корпус (ген.-маёр В. С. *Папоў*), ад Ч. да Прапойска — 55-я стралк. дывізія (падпалк. Г. А. Тэр-Гаспаран). Каля Ч. абарону трымалі 125-ы і 333-і стралк. палкі 6-й стралк. дывізіі. 17 ліп. часці



К. І. Чычкова. Л. С. Чэркас.

6-й стралк. дывізіі пад Ч. не вытрымалі атак танкаў і матарызаваных дывізій 2-й танк. групы Гудэрыяна і адышлі за Сож, Ч. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Аднак і пасля 20-га ліп. ў раёне Ч. вяліся ўпартыя баі. Бесперапыннымі атакамі з Пд і Пн на Ч. і Прапойск сав. войскі скавалі значныя сілы танк. групы Гудэрыяна. Частка сіл 28-га стралк. корпуса, наступаўшая на Ч., перарэзала Варшаўскую шашу і прымусіла ням. 4-ю танк. дывізію надоўга перайсці да абароны. За час акупацыі ў горадзе і раёне гітлераўцы знішчылі 1118 чал. У сярэдзіне 1942 у Ч. створана падп. антыфаш. арганізацыя (кіраўнік І. П. *Дзенісенка*). У горадзе і раёне дзейнічалі Чэрыкаўскія падп. райкомы КП(б)Б (ліп.— снеж. 1941, 4.6 —1.10.1943) і ЛКСМБ (1.6—1.10.1943), партыз. брыгады 14-я Цемналеская, 47-я «Перамога», асобныя партыз. атрады 2-і, 15, 41, 42, 720, 721-ы, «Алеся», «Анатоля», «Валянціна Маёрава», І. А. Стэфаненкі, Чэрыкаўскі (гл. адпавед. арт.). 1.10.1943 Ч. вызвалены воінамі 413-й стралк. дывізіі (палк. І. С. Хахлоў) 50-й арміі Бранскага фронту ў ходзе *Бранскай аперацыі 1943*. У вызваленні горада прымалі ўдзел партызаны атрадаў 720-га (П. У. Жмуроўскі) і 15-га (І. Н. Ваўчкоў), частка сіл *партызанскага палка «Трынаццаць»* (С. У. Грышын). У Ч. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, на ёй пастаўлены помнік, помнік землякам, устаноўлена мемарыяльная дошка І. П. Дзенісенку. Працуе *Чэрыкаўскі гісторыка-краязнаўчы музей.*

*Л. В. Календа.*

**ЧЭРЫКАЎСКІ ГІСТОРЫКА-КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ.** Адкрыты 27.11.1986. Экспа-

зіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, мае 700 экспанатаў, пл. 56 м². Расказваецца пра абарончыя баі на Чэрыкаўшчыне ў 1941: карта-схема ваен. дзеянняў 13-й арміі, фатаграфіі і дакументы байцоў 132-й, 137-й стралк. дывізій, 45-га і 20-га стралк. карпусоў, фатаграфіі і дакументы байцоў знішчальных батальёнаў і Чэрыкаўскага нар. апалчэння, зброя і абмундзіраванне сав. воінаў, знойдзеныя на месцах баёў. Экспануюцца матэрыялы пра ўзнікненне і разгортванне падполля і партыз. руху ў раёне: дырэктывы ЦК КП(б)Б № 1 і 2, фатаграфіі членаў антыфаш. падпюлля, Чэрыкаўскіх падп. райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, у т. л. сакратароў Г. А. *Храмовіча* і І. І. Касцючэнкі, падпольшчыка І. П. *Дзенісенкі,* лістоўкі, падп. газеты, макет бою Чэрыкаўскага асобнага партыз. атрада і фатаграфіі яго ўдзельнікаў, макет партыз. лагера, фатаграфіі каманднага саставу 15-га, 720-га, 721-га партыз. атрадаў, у т. л. І. Н. Валчкова, Я. А. Касмачова, Ф. С. *Тарасевіча,* П. У. Жмуроўскага, А. М. Гарбатага і інш., карта-схема палітмасавай работы сярод насельніцтва. Пра злачынствы ням.-фаш. захопнікаў сведчаць прыведзеныя лічбы загубленых і вывезеных на катаргу жыхароў, спаленых дамоў, культурна-асветных устаноў і інш. Расказваецца пра вызваленне горада і раёна воінамі 358-й і 413-й стралк. дывізій 50-й арміі Бранскага фронту, пра ўдзел воінаў-землякоў у баях на франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. руху, пра землякоў, Героя Сав. Саюза Л. В. Дзямянкова, П. І. Кавалёва, Я. М. Нікалаенку, У. Р. Яўсеенку і інш. *Ф. Ц. Рудзікаў.*



**ШАБАЛЫ́,** вёска на тэр. Верхнядзвінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на У ад в. Грыбаўцы Каханавіцкага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 25 чал. У лют. 1943, у час карнай аперацыі *«Зімовае чараўніцтва»,* фашысты загубілі 25 жыхароў, вёску (6 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1982 на месцы вёскі насыпаны курган, пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ШАБА́Н** Барыс Тарасавіч (н. 22.5. 1923, Масква), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1943. Беларус. Скончыў 3-е Ленінградскае арт. вучылішча (1942), Ваен. акадэмію бранятанк. і механіз. войск (1951). З 1942 на Бранскім, Цэнтр. і 1-м Бел. франтах. Камандзір мінамётнага ўзвода, батарэі ст. лейтэнант Ш. вызначыўся ў Курскай бітве і пры фарсіраванні Дняпра. 6.7.1943 каля ст. Паныры Курскай вобл. з процітанк. ружжа падбіў 2 бронетранспарцёры і танк праціўніка. Калі гітлераўцы акружылі яго, гранатамі знішчаў фашыстаў і вынес параненага разведчыка. 15.10.1943 пад агнём ворага батарэя Ш. пераправілася цераз Днянро ў Лоеўскім р-не і 5 сутак падтрымлівала наступленне пяхоты, адбіла 6 контратак, заглушыла 10 агнявых кропак. Да 1985 у Сав. Арміі, палкоўнік.

**ШАБА́Н** Казімір Аркадзевіч (22.6. 1922, в. Шабаны Мінскага р-на — 9.7.1945), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1944. Скончыў Тамбоўскую школу ваен. пілотаў (1941). З мая 1943 на Варонежскім, 1-м і 2-м Укр. франтах. Удзельнік Курскай бітвы, Корсунь-Шаўчэнкаўскай і Львоўска-Сандамірскай аперацый, вызвалення Румыніі, Венгрыі, Чэхаславакіі. Лётчык-штурмавік ст. лейтэнант Ш. зрабіў 123 баявыя вылеты на штурмоўку жывой сілы і баявой тэхнікі праціўніка. Загінуў пры выкананні службовых абавязкаў. Пахаваны ў Адэсе.

**ШАБЛО́ЎСКІ** Уладзімір Васілевіч (15.7.1908, в. Запалянне Слаўгарадскага р-на — 24.6.1941), адзін з кіраўнікоў *Брэсцкай крэпасці абароны 1941.* Чл. КПСС з 1932. З 1930 у Чырв. Арміі. З 1940 камісар батальёна 125-га стралк. палка 6-й Арлоўскай стралк. дывізіі, расквартараванага ў Брэсцкай крэпасці. Капітан Ш. ўзначаліў абарону ў раёне Зах. форта і дамоў нач. саставу на тэр. Кобрынскага ўмацавання. 24.6. 1941 паранены трапіў у палон, загінуў пры спробе ўцячы. Яго імем названы вуліцы ў Мінску і Брэсце.

**ШАВУ́ЛІЧЫ,** вёска на тэр. Ваўкавыскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 9 км на Пн ад Ваўкавыска, у Ваўкавыскім сельсавеце. Перад вайной у ёй жыло 375 чал. 7.7.1943, у час карнай аперацыі ў сувязі з забойствам партызанамі на дарозе Ваўкавыск — Пескі ням. чыноўніка, фашысты загубілі 366 жыхароў, у т. л. 123 дзяцей, вёску (77 двароў) спалілі, маёмасць разрабавалі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1954—67 на месцы спаленай вёскі ўстаноўлены скульптуры партызан і партызанкі, стэла і 5 абеліскаў. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**ШАКІ́НКА** Ціхан Пятровіч (1900, в. Старына Лёзненскага р-на — 24.12. 1953), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1924. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1948). З 1919 у Чырв. Арміі. З 1929 на пед. рабоце. Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У партызанах з чэрв. 1942: камандзір роты, у жн. 1943— студз. 1944 камісар *партызанскай брыгады Лёзненскай,* адначасова ў жн.— кастр. 1943 1-ы сакратар Лёзненскага падп. РК КП(б)Б. З 1944 заг. аддзела Віцебскага абкома КП(б)Б, заг. Віцебскага аблана, з 1947 дырэктар Маладзечанскага настаўніцкага ін-та.

**ШАЛА́ЕЎ** Іосіф Мікалаевіч (1901— ліст. 1941), арганізатар і кіраўнік *Гарбачэва-Мурагоўскага партыйна-камсамольскага падполля.* Чл. КПСС. Перад вайной працаваў старшынёй Гарбачэўскага сельпо. У пач. вайны пакінуты ў тыле ворага для арганізацыі парт. падполля на тэр. Расонскага р-на. У 2-й пал. жн. 1941 на падп. парт. сходзе выбраны сакратаром падп. парт. арг-цыі, кіраўніком Гарбачэва-Мурагоўскага падполля. Схоплены акупантамі ў ліст. 1941 і пасля катаванняў павешаны. У 1976 на ўшанаванне памяці Ш. на Гарбачэўскім Доме культуры ўстаноўлена мемар. дошка.

**ШАЛА́ХАЎ** Георгій Акімавіч (18.11. 1899, в. Пушча Гарадоцкага р-на — 22.5.1987), ген.-лейтэнант (1949). Чл. КПСС з 1920. З 1917 у Чырв. гвардыі, потым у Чырв. Арміі. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1932). У Айч. вайну нач. штаба арміі і групы войск на Далёкім Усходзе, нам. нач. штаба 1-га Далёкаўсх. фронту. Узначальваў авіядэсант у тыл ворага ў раёне Харбіна, удзельнік разгрому Квантунскай арміі Японіі. У 1945—69 на адказных пасадах у войсках, потым у цэнтр. апараце Міністэрства абароны СССР.

**ШАЛКО́ВА-ШЭ́ЛЕГАЎСКІ БОЙ 1943,** бой паміж партыз. брыгадай «Смерць фашызму» (гл. ў арт. *Партызанская брыгада імя В. І. Чапаева* Віцебскай вобл.) і ням.-фаш. захопнікамі ў вёсках Шалкова і Шэлегаўка Полацкага р-на 10.5.1943.

624-ы ахоўны батальён гітлераўцаў, які рыхтаваўся да карнай аперацыі супраць партызан, высяліў з вёсак Шалкова і Шелегаўка Полацкага р-на ўсіх жыхароў. Камандаванне партыз. брыгады (камандзір У. В. *Мельнікаў,* камісар І. Ф. *Каранеўскі,* нач. штаба М. В. *Уткін*) распрацавала план раптоўнага нападу, поўнага знішчэння карнікаў. У 2 гадз. ночы 10.5.1943 партызаны брыгады з апазнавальнымі павязкамі на рукавах некалькімі штурмавымі групамі атакавалі варожыя гарнізоны ў вёсках Шалкова і Шэлегаўка. Раптоўнасць і імклівасць нападу перашкодзіла гітлераўцам заняць акопы і дзоты, і яны ў паніцы шукалі ратунку ў хатах, скляпах і на гарышчах. Упартае супраціўленне аказаў толькі камандны састаў батальёна. У выніку нач-

нога бою партызаны знішчылі і паранілі каля 150 гітлераўцаў, 8 узялі ў палон, знішчылі склады з боепрыпасамі, харчаваннем, захапілі штабныя дакументы, 4 кулямёты, аўтаматы, вінтоўкі, амуніцыю, 25 коней.

*У. С. Пасэ.*

**ШАЛУШКО́Ў** Рыгор Іванавіч (1899, в. Рудня-Бронская Рагачоўскага р-на — 1943), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на Жытоміршчыне. Герой Сав. Саюза (1965). Чл. КПСС з 1925.



Б. Т. Шабан. К. А. Шабан. У. В. Шаблоўскі. Р. І. Шалушкоў. А. Дз. Шамянкоў. Ю. А. Шандалаў.

У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. З 1929 на парт. рабоце на Украіне. У 1941 пакінуты ў тыле ворага для арганізацыі парт. падполля і партыз. руху. З сак. 1942 узначальваў парт. тройку па кіраўніцтву партыз. рухам на Жытоміршчыне. З крас. 1943 сакратар Жытомірскага падп. абкома КП(б)У, які кіраваў дзейнасцю 18 падп. гаркомаў і райкомаў, 222 падп. арг-цый і груп, 10 партыз. атрадаў. 23.5.1943 схоплены фашыстамі і закатаваны. У Жытоміры Ш. пастаўлены помнік. Яго імем названы вуліцы ў Жытоміры і Каростышаве, там, а таксама ў г. Бярдзічаў і г. п. Ямільчына Жытомірскай вобл. яму ўстаноўлены мемар. дошкі.

**ШАМЯНКО́Ў** Апанас Дзмітрыевіч (22.2.1896, в. Гніліца, Краснапольскі р-н Магілёўскай вобл.— 8.3.1972), ген.-лейтэнант (1945), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1919. Скончыў Аб'яднаную Кіеўскую школу камандзіраў РСЧА (1927), курсы ўдасканалення вышэйшага начсаставу пры Ваен. акадэміі імя Фрунзе. У арміі з 1915, у Чырв. Арміі з сак. 1918. Удзельнік грамадз. вайны. У Айч. вайну з 1941 на Паўн.-Зах., Паўд.-Зах., 3-м Укр. і 1-м Бел. франтах: камандзір стралк. дывізіі, нам. камандуючага арміяй па тыле, нам. камандзіра і камандзір стралк. корпуса. Удзельнік вызвалення Украіны, Беларусі, Вісла-Одэрскай, Усх.-Памеранскай, Берлінскай аперацый. Дывізія пад яго камандаваннем вызначылася пры фарсіраванні Віслы, вызваленні г. Познань. Да 1953 у Сав. Арміі. Яго імем названа вуліца ў г. п. Краснаполле. Аўтар кн. «Штурм цытадэлі» (1969).

**ШАНДА́ЛАЎ** Юрый Абрамавіч (10.3.1923, Гомель — 16.4.1945), Герой Сав. Саюза (1946). На фронце з 1941. Камандзір стралк. роты ст. лейтэнант Ш. вызначыўся 16.4.1945 у баі на левым беразе р. Одэр. Штурмавая рота пад яго камандаваннем уклінілася ў абарону праціўніка. У час 4-й контратакі ворага Ш. з 2 байцамі падбіў 2 танкі. Апынуўшыся ў акружэнні, знішчыў 48 фашыстаў. Загінуў у няроўным баі. Пахаваны ў г. Грос-Нойендорф (ГДР). Яго імем названа вуліца ў Гомелі, на будынку СШ № 2, дзе ён вучыўся, устаноўлена мемар. дошка.

**ШАПАВА́ЛАЎ** Пётр Гапеевіч (1904, г. Горкі Магілёўскай вобл.— 30.9.1941), адзін з арганізатараў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Пінскай вобл. Чл. КПСС з 1931. З 1930 на гасп. рабоце ў Мінску, Оршы, Маскве. У 1939 інструктар ЦК КП(б)Б, потым сакратар Пінскага абкома КП(б)Б. З ліп. 1941 сакратар *Пінскага падпольнага абкома КП(б)Б.* Загінуў пры выкананні баявога задання.

**ША́ПАШНІКАЎ** Барыс Міхайлавіч (2.10.1882, г. Златауст Чэлябінскай вобл.— 26.3.1945), Маршал Сав. Саюза (1940). Чл. КПСС з 1930. Скончыў Акадэмію Генштаба (1910). У арміі з 1901, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік 1-й сусветнай і грамадз. войнаў. У 1937—40 і 1940—42 нач. Генштаба Чырв. Арміі, у 1940—43 нам. наркома абароны СССР, у 1943—45 нач. Ваен. акадэміі Генштаба. Канд. у чл. ЦК ВКП(б) з 1939, Дэп. ВС СССР з 1937. Урна з прахам пахавана ў Крамлёўскай сцяне.

**«ШАРАВА́Я МАЛА́НКА»** («Kugelblitz»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партызан і мясцовага насельніцтва *Суражскай партызанскай зоны* (Віцебскі, Гарадоцкі, Суражскі р-ны) 14.2—19.3.1943.

Праводзілася сіламі 201-й ахоўнай дывізіі, 2-га матарыз. палка 3-й танк. арміі, 3 здрадніцкіх фарміраванняў, арт., сапёрных, контрразведвальных падраздзяленняў, 825-га «ост-мусульманскага» батальёна, прыдадзенага 391-й вучэбна-палявой дывізіі вермахта. Карнікаў падтрымлівалі бронецягнік і 10 бронемашын. Агульная колькасць гітлераўцаў—36 тыс. салдат і афіцэраў. Кіравалі аперацыяй камандзір 201-й ахоўнай дывізіі ген.-маёр Якабі і камандуючы «ўсходнімі добраахвотніцкімі фарміраваннямі» ген.-маёр Вартэнберг. Карнікі імкнуліся акружыць і знішчыць партызан у трохвугольніку Гарадок — Сураж — Мяжа, захапіць працаздольнае насельніцтва для вывазу ў Германію, стварыць бяспеку руху на ўчастку ракаднай чыгункі Віцебск — Гарадок — Невель, перашкодзіць пранікненню праз гэты раён партызан за лінію фронту, баявому ўзаемадзеянню партызан з часцямі Чырв. Арміі.

Да 14 лют. ў кальцы карнікаў паміж р. Аўсянка, Лужаснянка і чыгункай Віцебск — Езярышча апынулася 9 тыс. партызан і больш за 20 тыс. мясцовых жыхароў. На асобных участках партызаны імкнуліся контратакамі перашкодзіць праціўніку сканцэнтраваць сілы і захапіць плацдарм на берагах рэк, што абкружалі партыз. зону. 15 лют. партызаны брыгады «Аляксея» (гл. *Партызанская брыгада імя А. Ф. Данукалава*) авалодалі вёскамі Сахарава, Жабенцяі, Баліна, Мельна на левабярэжжы Зах. Дзвіны, знішчылі больш за 100 гітлераўцаў, захапілі 20 чал. палонных, зброю і боепрыпасы. Гітлераўцы не змаглі ўварвацца ў зону і з 18 лют. пачалі сістэматычна абстрэльваць і бамбіць пярэдні край партыз. абароны. ЦК КП(б)Б і БШПР прымалі меры па аказанню дапамогі партызанам і насельніцтву. 11 і 15 лют. экіпажы зрабілі да іх 46 самалёта-вылетаў з боепрыпасамі і зброяй, дадаткова з 20 да 24 лют. даставілі ў зону больш за 115 тыс. патронаў, каля 800 мін і 18 мінамётаў, 700 кг толу. 22 лют. гітлераўцы перайшлі ў наступленне па ўсім перыметры блакады, 5 сутак ішлі бязлітасныя кровапралітныя баі. На У ад г. Гарадок *партызанская брыгада імя М. І. Кутузава* разграміла батальён праціўніка, захапіла яго сцяг, мінамёты, аўтаматы, вінтоўкі, партызаны-бранябойшчыкі падбілі 3 бронемашыны, грузавую і легкавую аўтамашыны. У ноч на 23 лют. на бок партызан амаль у поўным складзе (506 салдат) перайшоў 825-ы «ост-мусульманскі» батальён і ўліўся ў 1-ю Віцебскую і «Аляксея» брыгады. Партызаны не ўступалі ў зацяжныя баі, прабіваючыся невял. групамі праз шчыльныя ланцугі карнікаў. Да 3 сак. партызаны і мясцовыя жыхары былі акружаны на зарослым драбналессем і хмызняком балоце пл. 112 км². Сілы карнікаў размяшчаліся на рубяжы вёсак Канашы —

Дубрава — Азёркі, Кавалёва — Сапраны — урочышча Астроўская Дача. 5 сак. партызаны ва ўрочышчы Шчалбоўская Дача трымалі кругавую абарону, потым пайшлі ўракапашную і да 11 сак. выйшлі ў раён вёсак Стайкі, Дражна, Платы, Коставічы.

Да 20 сак. гітлераўцы адышлі ў Віцебск, Гарадок, Сураж. У баявым дзённіку 201-й ахоўнай дывізіі камандуючы аперацыяй «Ш. м.» падвёў яе вынікі. Фашысты «праверылі» 169 вёсак, «прафільтравалі» ў іх 3583 чал. і перадалі іх 9-й эйнзацкамандзе СД, 1456 чал. з іх былі расстраляны, 804 чал. дастаўлены ў зборны лагер для адпраўкі на работы. Партызаны страцілі ў баях каля 400 чал. забітымі, больш за 100 чал. паранянымі. Паводле даных праціўніка было ўзята ў палон 260 партызан, з якімі зверскі расправіліся: іх рэзалі нажамі і штыкамі, звязвалі калючым дротам, абкладвалі смалой і дровамі і падпальвалі. Жанчын і дзяцей, што спрабавалі схавацца ў зямлянках, знішчалі гранатамі, злоўленых у лесе цывільных жыхароў заганялі ва ўцалелыя пабудовы і жывымі спальвалі. У баях было забіта і паранена каля 500 гітлераўцаў толькі з 201-й ахоўнай дывізіі, амаль поўнасцю знішчаны бронедывізіён вермахта. Працягам аперацыі «Ш. м.» стала карная аперацыя *«Грамавы ўдар»*.

*У. С. Пасэ.*

П. Г. Шапавалаў. М. П. Шарко.



**ШАРАКО́Ў** Васіль Яўсеевіч (1.1.1903, в. Казіміраўка Віцебскага р-на — 1.5.1981), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Брэсцкай і Віцебскай абл. Чл. КПСС з 1931. Скончыў Вышэйшую Камуніст. с.-г. школу Беларусі (1935). З 1935 на парт. і сав. рабоце ў Віцебскай, з 1939— у Брэсцкай абл. З вер. 1941 у тыле ворага, з мая 1942 палітрук роты, сакратар парт. арг-цыі партыз. атрада Ф. А. Варапаева, з 18.9 да 26.10.1943 чл. Суражскага падп. РК КП(б)Б, адначасова ў вер.— кастр. 1943 камісар атрада імя Р. С. Курмялёва партыз. брыгады 1-й Беларускай. З 19.6 да 20.7.1944 сакратар *Маларыцка-Дамачоўскага падпольнага міжрайкома КП(б)Б.* У 1944—59 на сав. і гасп. рабоце.

**ШАРАШО́ВА,** гар. пасёлак у Пружанскім р-не, на р. Левая Лясная. За 20 км на З ад Пружан, за 32 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Брэст — Баранавічы, аўтадарогай звязаны з Пружанамі. У 1940—56 цэнтр Шарашоўскага р-на. 23.6.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў Ш. і раёне 1992 чал. У гар. пасёлку і раёне дзейнічалі раённы антыфаш. к-т, падп. РК ЛКСМБ (1.9.1943—13.7.1944), асобны *партызанскі атрад С. І. Казлова.* Вызвалена 17.7.1944 воінамі 54-й гвардз. стралк. дывізіі (ген.-маёр М. М. Данілаў) 3-га гвардз. стралк. корпуса 28-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе наступлення на баранавіцка-брэсцкім напрамку. У Ш. брацкія магілы партызан і ахвяр фашызму, сав. воінаў і партызан, на якіх пастаўлены помнікі; помнік землякам, што загінулі на франтах Вял. Айч. вайны; мемар. дошка старшыні выканкома Шарашоўскага Савета В. П. Грынкевічу, якога расстралялі ням.-фаш. захопнікі.

*Т. І. Паваліхіна.*

**ШАРКО́** Мікалай Піліпавіч (н. 2.1. 1924, в. Макаўчыцы Дзяржынскага р-на Мінскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1944. Скончыў ваен.-пях. вучылішча (1943), Мінскі пед. ін-т (1954). З 1943 на 3-м Укр. і 1-м Бел. франтах. Удзельнік вызвалення Украіны, Беларусі. Камандзір роты капітан Ш. вызначыўся ў баях на тэр. Польшчы. 14.1.1945 у час прарыву варожай абароны падняў роту ў атаку, рота захапіла 2 траншэі праціўніка, больш за 50 кулямётаў; 16.1.1945 пры авалоданні нас. пунктамі Нова-Мяста і Глоўна рота Ш. знішчыла варожы дэсант (60 гітлераўцаў, 2 бронетранспарцёры, 4 аўтамашыны). 21.1.1945 разграміла варожую калону, захапіла палонных. Пасля вайны на адм. рабоце.

**ШАРКО́ЎШЧЫНА,** гар. пасёлак, цэнтр Шаркоўшчынскага р-на, на р. Дзісна. За 218 км на З ад Віцебска. Чыг. станцыя на лініі Круляўшчына — Друя, на аўтадарозе Браслаў — Глыбокае. З 1940 цэнтр раёна. 30.6.1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў Ш. і раёне за гады акупацыі 2027 сав. грамадзян. На тэр. раёна дзейнічалі *Шаркоўшчынская падпольная камсамольска-маладзёжная арганізацыя «За Радзіму»*, падп. райкомы КП(б)Б (11.9.1943—2.7.1944) і ЛКСМБ (14.9.1943—2.7.1944), партыз. брыгады 1-я імя Суворава, імя Леніна, «Спартак», «Кастрычнік», «За Радзіму», 4-я Бел., імя М. Ф. Гастэлы, 16-я Смаленская (гл. адпаведны артыкул); выдавалася падп. газ. *«Народный мститель»*. Вызвалена 1.7.1944 воінамі 44-й мотастралк. брыгады (палк. А. І. Халаеў) 1-га танк. корпуса і часцямі 46-й гвардз. стралк. дывізіі (палк. К. А. Васільеў) 1-га Прыбалт. фронту ў ходзе *Полацкай аперацыі 1944.* У Ш. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, на якой пастаўлены помнік; помнік Вызвалення ў гонар воінаў, што вызвалялі пасёлак ад ням.-фаш. акупантаў. *Н. У. Капранава.*

**ШАРКО́ЎШЧЫНСКАЯ ПАДПО́ЛЬНАЯ КАМСАМО́ЛЬСКА-МАЛАДЗЁЖНАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ «ЗА РАДЗІ́МУ».** Дзейнічала ў ліп. 1941 — ліп. 1944 на тэр. Шаркоўшчынскага р-на. Налічвала 31 чал., у т. л. 26 камсамольцаў. Кіраўнікі: Г. К. Лысёнак (з вер. 1942 у партызанах, з вер. 1943 сакратар Шаркоўшчынскага падп. РК ЛКСМБ), П. А. Балай, І. А. Гінько. Яго дзейнасць узначальвалі *Вілейскі падпольны абком КП(б)Б* (з мая 1943), *Вілейскі падпольны абком ЛКСМБ* (з крас. 1943). На сходзе камсамольцаў 27.7.1941, на якім прысутнічалі Э. І. Бараноўская, І. А. Гінько, С. І. Дзіковіч, Э. І. Кухальскі, Г. К. Лысёнак, А. С. Невядомскі і інш., былі вызначаны задачы арг-цыі: збор зброі, зрыў выканання распараджэнняў акупантаў, агітацыйна-прапагандысцкая работа сярод насельніцтва. Кухальскі, Г. К. і П. К. Лысёнкі ўстанавілі ў лесе дэтэктарны прыёмнік, запісвалі зводкі Саўінфармбюро. Па заданню партыз. атрада (пазней брыгады) «Спартак» патрыёты засылалі сваіх людзей у варожыя гарнізоны ў Варапаева, Глыбокае, Паставы, Шаркоўшчыну, адкуль забяспечвалі камандаванне атрада разведданымі.

Па рашэнню Шаркоўшчынскага падп. РК ЛКСМБ і камандавання партыз. брыгады «За Радзіму» ў распалажэнне варожага фарміравання ў в. Красны Двор быў накіраваны падпольшчык В. Ф. Недзведзь, у Шаркоўшчыну — В. П. Вярцінскі, на чыг. ст. Крулеўшчына — Э. І. Бараноўская. Падпольшчыкі П. А. Балай, М. П. Брэскі, Т. Л. Лянкевіч і інш., што працавалі ў Варапаеве, рэгулярна перадавалі ў партыз. атрад П. М. Шырокава (пазней імя А. А. Жданава брыгады «За Радзіму») разведданыя, бланкі дакументаў, пісчую паперу. Адыходзячы летам 1943 у партыз. атрад, яны падпалілі будынак біржы працы, знішчылі дакументы, вынеслі пішучую машынку. Сумесна з партызанамі патрыёты знішчалі лініі сувязі, палілі масты на шашэйных дарогах і чыгунцы, удзельнічалі ў нападах на гарнізоны акупантаў. У вер. 1942 падпольшчыкі і партызаны атрада «Спартак» разграмілі гарнізон у вёсках Казяны, Еды, Жураўоўшчына, спалілі чыг. станцыю ў в. Полава.

У барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў загінулі Б. І., С. І. і Я. Р. Дзіковічы, Э. І. Кухальскі, М. М. Лапаць, П. К. Лысёнак, Я. Ц. Машара, А. С. Невядомскі, К. А. Рамановіч. *М. Ф. Шумейка.*

**ШАРШНЁВА** Рыма Іванаўна (1925, г. Добруш — 6.12.1942), удзельніца партыз. руху і камсам. падполля ў Мінскай вобл. Чл. ВЛКСМ. З ліп.

1942 у камсам.-маладзёжным партыз. атрадзе імя Гастэлы (гл. *Партызанская брыгада 121-я імя А. Ф. Брагіна*), накіраваным ЦК ЛКСМБ у тыл ворага, сувязная-інструктар ЦК ЛКСМБ, забяспечвала сувязь з Мінскім падп. міжрайкомам ЛКСМБ. Арганізоўвала камсам. падполле, праводзіла палітыка-масавую работу сярод насельніцтва, удзельнічала ў баявых аперацыях партызан. 25.11.1942 у час разгрому варожага гарнізона ў в. Ламавічы Акцябрскага р-на (гл. *Ламавіцкі бой 1942*) смяротна паранена. Пахавана ў Любані. У в. Ламавічы ёй пастаўлены помнік.

**ШАРШНЕЎ** Іван Пятровіч (26.8.1915, в. Азерцы Клімавіцкага р-на — 30.4. 1976), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1941. З 1934 на сав. і пед. рабоце. З 1940 у Чырв. Арміі. У партызанах з жн. 1942: палітрук групы, з лют. 1943 камісар атрада, у чэрв. 1943— ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады «Полымя»*. З 1945 на парт., пед., адм.-гасп. і гасп. рабоце.

**ШАРЫ́ПА** Павел Маркавіч (16.2.1903, в. Заазер'е, Аршанскі р-н — 18.12. 1975), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1932. Скончыў Бел. с.-г. ін-т (1940). З 1927 на гасп. рабоце, з 1940 ст. заатэхнік у Дзісенскім р-не. У партызанах з чэрв. 1942: камандзір узвода, нач. штаба атрада, у вер. 1943— чэрв. 1944 камісар *партызанскай брыгады Багушэўскай* (2-га складу), аднача-сова чл. Багушэўскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—59 на парт. і адм.-гасп. рабоце.

**ШАСНА́ЦЦАТАЯ ПАВЕ́ТРАНАЯ А́РМІЯ.** Сфарміравана ў жн. 1942 у складзе 4 авіядывізій і 2 асобных авіяпалкоў. Баявы шлях пачала 4.9.1942 на сталінградскім напрамку. На Сталінградскім і Данскім франтах удзельнічала ў абароне Сталінграда, контрнаступленні, паветр. блакіроўцы і разгроме акружанай групоўкі праціўніка. У 1943 падтрымлівала і прыкрывала з паветра войскі Цэнтр. фронту ў Курскай бітве, пры вызваленні Левабярэжнай Украіны і фарсіраванні Дняпра. Увосень 1943 і зімой 1943—44 падтрымлівала войскі на чарнігаўска-мазырскім і гомельска-бабруйскім напрамках, зрабіла вял. ўклад у вызваленне ўсх. раёнаў Беларусі. У час *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943* удзельнічала ў вызваленні гарадоў Рэчыца (17.11.1943) і Гомель (26.11.1943), дзе вызначыліся 2-я гвардз. штурмавая, 241-я бамбардзіровачная і 271-я начная бамбардзіровачная авіядывізіі, якім нададзены ганаровыя найменні «Рэчыцкіх», 273-я і 202-я знішчальныя і 301-я бамбардзіровачная авіядывізіі, удастоеныя ганаровых найменняў «Гомельскіх». У час *Калінкавіцка-Мазырскай аперацыі 1944* армія ўдзельнічала ў вызваленні гарадоў Калінкавічы і Мазыр (14.1.1944), у баях за якія вызначылася 234-я знішчальная авіядывізія, ёй нададзена ганаровае найменне «Мазырская». Летам 1944 армія (5 авіякарпусоў і 9 асобных авіядывізій) у складзе 1-га Бел. фронту ўдзельнічала ў *Беларускай аперацыі 1944*. Гэта найбольшая паветраная армія аказала вял. дапамогу сухапутным войскам у акружэнні буйной групоўкі праціўніка ў раёне Бабруйска. У ходзе *Бабруйскай аперацыі 1944* масіраванымі ўдарамі яна садзейнічала хуткаму знішчэнню акружанай групоўкі ворага. У баях за вызваленне Бабруйска (29.6.1944) вызначыліся 3-і бамбардзіровачны і 8-ы знішчальны авіякарпусы, якім нададзены ганаровыя найменні «Бабруйскіх». У баях за вызваленне Жлобіна (29.6. 1944) вызначылася 196-я штурмавая авіядывізія, удастоеная ганаровага наймення «Жлобінскай». Значную ролю адыграла армія ў акружэнні і разгроме мінскай групоўкі, ліквідацыі *мінскага «катла»* і праследаванні адыходзячых войск праціўніка. У ходзе наступлення на баранавіцка-слонімскім напрамку, у баях па знішчэнні праціўніка ў раёне Баранавіч вызначыліся 6-ы знішчальны авіякорпус, 323-я знішчальная авіядывізія і шэраг авіяпалкоў, ім нададзены ганаровыя найменні «Баранавіцкіх». У ходзе наступлення на баранавіцка-брэсцкім напрамку пры вызваленні Слоніма (10.7.1944) вызначыліся 241-я бамбардзіровачная, 271-я начная бамбардзіровачная і 2-я гвардз. штурмавая авіядывізіі, ім нададзены ганаровыя найменні «Слонімскіх». Злучэнні і часці арміі ўдзельнічалі ў вызваленні ўсх. раёнаў Польшчы, ва Усходне-Пазнанскай, Усх.-Памеранскай і Берлінскай аперацыях. На завяршальным этапе вайны (Берлінская аперацыя) у складзе арміі было 8 авіякарпусоў, 10 асобных авіядывізій і 4 асобныя авіяпалкі, якія налічвалі больш за 3 тыс. баявых самалётаў. За гады вайны армія зрабіла каля 280 тыс. самалёта-вылетаў, нанесла праціўніку цяжкія страты ў жывой сіле і тэх-




Аўтар У.С.Пасэ

ніцы. За ваен. майстэрства, адвагу і гераізм 30 злучэнням і часцям арміі нададзены найменні гвардзейскіх, 208 узнаг. ордэнамі, 64 атрымалі ганаровыя найменні. Больш за 27 500 авіятараў узнаг. ордэнамі і медалямі СССР, больш як 200 чал. сталі Героямі Сав. Саюза, лётчыкі А. Я. Баравых, В. М. Голубеў і Я. Я. *Савіцкі* ўдастоены гэтага звання двойчы, а І. М. *Кажадуб* — тройчы.

Р. І. Шаршнёва. М. Дз. Шастакоў.



Камандуючыя: ген.-маёр авіяцыі П. С. Сцяпанаў (жн.— кастр. 1942), ген.-маёр, з 27.1.1943 ген.-лейт., з 11.5.1944 ген.-палк. авіяцыі С. І. *Рудэнка* (з кастр. 1942 да канца вайны).

**ШАСТАКО́Ў** Анатоль Пятровіч (14.2. 1915, с. Калывань Кур'інскага р-на Алтайскага краю — 12.6.1944). Чл. КПСС, з 1932 у Чырв. Арміі. У 1938 закончыў Новасібірскае ваен. вучылішча. Удзельнік абароны Масквы. Узнагароджаны ордэнамі Леніна, Чырв. Сцяга, Айчыннай вайны І ступені. Байцы і камандзіры кіруемага А. П. Шастаковым атрада «Слаўны» дзёрзкімі засадамі, разгромам гарнізонаў, дыверсіямі на чыгунках нанеслі праціўніку значныя страты ў жывой сіле і тэхніцы, здабывалі і перадавалі сав. камандаванню важную разведвальную інфармацыю. К. К. Ракасоўскі так ахарактарызаваў дзейнні атрада А. П. Шастакова: «Ён абсталяваўся ў раёне чыгункі Бранск — Гомель, працяглы час тэрарызаваў немцаў на гэтым участку і паведамляў нам каштоўныя звесткі» (Рокоссовский К. К. Солдатский долг. М., 1980, с. 114). У Бакштаўскай (Іўеўскі р-н Гродзенскай вобл.), Мінскай № 29, Магілёўскай № 22, Змяінагорскіх № 1 імя А. П. Шастакова і № 3 СШ ёсць піянерскія атрады імя А. П. Шастакова і музеі, прысвечаныя атраду «Слаўны» і яго камандзіру.

**ШАСТАКО́Ў** Міхаіл Дзянісавіч (3.11. 1907, в. Нача Крупскага р-на — 12.5. 1942), Герой Сав. Саюза (1942). Чл. КПСС з 1935. У Чырв. Арміі з 1929. Скончыў Аб'яднаную бел. ваен. школу імя ЦВК БССР (1931). З 1941 на Пауд.-Зах. фронце. Камандзір танк. батальёна капітан Ш. вызначыўся ў баях пад Харкавам. 12.5.1942 батальён Ш. фарсіраваў р. Бабка і захапіў у палон 300 гітлераўцаў з узбраеннем і артылерыяй, у баі за с. Непакрытае Валчанскага р-на знішчыў разлікі 4 гармат, вызваліў сяло, узяў у палон батальён варожай пяхоты. Загінуў у гэтым баі. Яго імем названа былое с. Непакрытае (Шастакова), устаноўлены помнік. У в. Нача яго імем названы сярэдняя школа, вуліца, пастаўлены помнік.

**ШАСТАКО́Ў** Рыгор Фёдаравіч (7.8. 1921, в. Ліцвякі Талачынскага р-на — 2.8.1944), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай і Вілейскай абл. З 1938 на пед. рабоце. З чэрв. 1941 на Зах. фронце. З жн. 1942 у тыле ворага, інструктар ЦК ЛКСМБ, пам. камісара брыгады, у маі — снеж. 1943 камісар *партызанскай брыгады імя У. І. Леніна,* у студз.— лют. 1944 у прадстаўніцтве БШПР на 1-м Прыбалт. фронце, з лют. на фронце. Загінуў у баі.

**ШАСТАПА́ЛАЎ** Мікалай Анісімавіч (19.12.1909, г. Ромны Сумскай вобл.— 2.7.1984), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1931. З 1927 рабочы. З 1931 у Чырв. Арміі. З чэрв. 1941 на фронце. У партызанах з сак. 1942: камандзір групы, атрада, у снеж. 1942— маі 1943 і вер. 1943— ліп. 1944 *партызанскай брыгады 27-й імя В. І. Чапаева,* у маі — жн. 1943 камандзір партыз. злучэння Слуцкай зоны (гл. ў арт. *Мінскае партызанскае злучэнне*), адначасова чл. падп. міжрайкома КП(б)Б Слуцкай зоны, Капыльскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—71 на сав. і адм.-гасп. рабоце.




**ШАЎЛЯ́ЙСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1944,** наступальная аперацыя 5—31 ліп. войск 1-га Прыбалтыйскага фронту (ген. арміі І. Х. Баграмян); састаўная частка *Беларускай аперацыі 1944.* Удзельнічалі арміі: 6-я гвардз. (ген.-палк. І. М. Чысцякоў), 43-я (ген.-лейт. А. П. Белабародаў), 2-я гвардз. (ген.-лейт. П. Г. Чанчыбадзе), 51-я (ген.-лейт. Я. Р. Крэйзер). Пасля завяршэння *Полацкай аперацыі 1944* і выхаду на рубеж Друя, на З ад Варапаева, воз. Нарач войскі 1-га Прыбалт. фронту без аператыўнай паўзы пачалі Ш. а. Войскі 6-й гвардз. арміі, што перайшлі ў наступленне ў напрамку на Даўгаўпілс, вызвалілі 6 ліп. г. Браслаў, 8 ліп. г. п. Відзы, 9 ліп. г. п. Друя. Наступаўшыя на гал. напрамку войскі 43-й арміі вызвалілі 5 ліп. г. Паставы, 7 ліп. г. Швенчоніс, 9 ліп. г. п. Лынтупы і г. Уцена і перарэзалі чыгунку Даўгаўпілс — Вільнюс, 18 ліп. фарсіравалі р. Швянтоі; у выніку ў абароне праціўніка на шаўляйскім напрамку ўтварыўся пралом. 20 ліп. на гэтым напрамку ў бітву ўведзены 51-я і 2-я гвардз. арміі, якія мелі задачу нанесці гал. ўдар на Шаўляй, з Пд іх наступленне забяспечвала 39-я армія (ген.-палк. І. І. Люднікаў) 3-га Бел. фронту, наступаўшая на Каўнас. Злучэнні 51-й арміі 22 ліп. авалодалі г. Паняважыс і разам з часцямі 3-га гвардз. механіз. корпуса 27 ліп.— г. Шаўляй (10 злучэнняў і часцей атрымалі ганаровыя найменні «Шаўляйскіх»). Часці 6-й гвардз. арміі разам з часцямі 4-й ударнай арміі 2-га Прыбалт. фронту 27 ліп. вызвалілі Даўгаўпілс. Пасля гэтага войскі 1-га Прыбалт. фронту, выконваючы ўказанні Стаўкі Вярх. Галоўнакамандавання, разгарнулі наступленне гал. сіламі на Рыгу, левым крылом на Клайпеду. Часці 3-га гвардз. механіз. корпуса разам з войскамі 51-й арміі вызвалілі г. Елгава і 31 ліп. выйшлі да Рыжскага заліва. У выніку Ш. а. сав. войскі вызвалілі часткі тэр. Браслаўскага і Пастаўскага р-наў БССР, нанеслі паражэнне праціўніку на шаўляйскім напрамку, прасунуліся ад 100 да 400 км і вызвалілі значную частку тэр. Літ. ССР і Латв. ССР, з выхадам да Рыжскага заліва выканалі пастаўленую перад імі

мэту — перакрылі шляхі адступлення ням. групе армій «Поўнач», адрэзалі яе ад Усходняй Прусіі.

**ШАЎРО́Ў** Іван Ягоравіч (н. 27.3.1916, в. Шабуні Віцебскага р-на), ген. арміі (1973). Прафесар (1977). Чл. КПСС з 1940. Скончыў ваен. акадэміі механізацыі і матарызацыі Чырв. Арміі (1941), Генштаба (1948). З 1941 на Бранскім, Паўд.-Зах., Паўд., Данскім, Цэнтр., 4-м Укр., 1-м і 2-м Прыбалт. франтах: ст. ад'ютант батальёна, нам. нач., нач. штаба танк. брыгады, нач. аператыўнага аддзела штаба ўпраўлення камандуючага бранятанк. і механіз. войскамі фронту, нач. аператыўнага аддзела штаба танк. арміі, нач. штаба танк. корпуса. Удзельнік Сталінградскай і Курскай бітваў, вызвалення Крыма, Прыбалтыкі. Пасля вайны ў Сав. Арміі. У 1957—60 нам. галоўнакамандуючага Групай сав. войск у Германіі. У 1963—67 нам. камандуючага, камандуючы ваен. акругамі, у 1973—78 нач. Ваен. акадэміі Генштаба. З 1978 у апараце галоўнакамандуючага Аб'яднанымі ўзбр. сіламі дзяржаў — удзельніц Варшаўскага Дагавора. Чл. ЦК КПСС у 1971—76. Дэп. ВС СССР у 1970—74.

**ШАЎЧЭ́НКА** Аляксей Ільіч (30.3.1898, в. Сялец Брагінскага р-на — 29.5. 1973), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Вілейскай вобл. Чл. КПСС з 1932. У 1923—41 на сав. і гасп. рабоце ў Брагінскім і Куранецкім р-нах. У партызанах з жн. 1942: кіраўнік групы, з сак. 1943 камандзір атрада, у студз.— ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава,* адначасова ў маі 1943— ліп. 1944 чл. Вілейскага падп. абкома КП(б)Б, у кастр. 1943— ліп. 1944 1-ы сакратар Мядзельскага падп. РК КП(б)Б. З 1944 1-ы сакратар Пастаўскага РК КП(б)Б, на гасп. рабоце ў Маладзечанскай вобл. У 1947—58 старшыня, нам. старшыні Маладзечанскага райвыканкома.

**ША́ЦКІ БОЙ 1943,** бой паміж партыз. атрадам імя Жукава партыз. брыгады імя Сталіна (гл. ў арт. *Партызанская брыгада імя У. І. Леніна* Брэсцкай вобл.) і ням.-фаш. захопнікамі ў пас. Шацк Любомльскага р-на Валынскай вобл. УССР у ноч на 15.11.1943.

Пастаянны гарнізон пас. Шацк налічваў 80 ням. салдат і афіцэраў. Апорныя пункты гарнізона былі абнесены калючым дротам, па перыметры абароны збудавана некалькі кулямётных дзотаў. У пачатку ліст. 1943 партызаны брыгады імя Сталіна атрымалі звесткі аб тым, што гітлераўцы ўзброілі і размясцілі ў казармах гарнізона пас. Шацк Любомльскага р-на каля 350 рабочых, вывезеных з Данбаса, і маюць намер выкарыстаць іх пад сваім наглядам у барацьбе з партызанамі.

Партыз. атрад імя Жукава ў складзе 3 рот пад кіраўніцтвам камандзіра атрада В. У. Каткова з 12.11.1943 у 2 начныя пераходы прайшоў каля 50 км і ўвечары 14 ліст. скрытна выйшаў да рубяжоў атакі. Каб пазбегнуць страт ад уласнага агню ў начным баі, кожнай роце былі дакладна ўказаны аб'екты і напрамак атакі. Імклівым і бясшумным кідком партызаны пераадолелі загароды з дроту, акружылі казармы і па сігнале абрушылі на казармы кулямётна-аўтаматны агонь, а потым уварваліся ў іх. Больш за 100 паліцэйскіх адразу ж здаліся і перайшлі на бок партызан, а гітлераўцы працягвалі ўпартае супраціўленне. Амаль усе кулямётныя кропкі праціўніка былі знішчаны гранатамі. Доўга трымаўся дзот у складзе з боепрыпасамі, з якога вялі агонь 4 ням. салдаты. Гераічны ўчынак здзейсніў у гэтым баі камсамолец камандзір аддзялення М. П. Рубель. Ён праўраўся да склада з боепрыпасамі і гранатамі знішчыў яго і кулямётны разлік фашыстаў, ахвяруючы сабою. З варожага гарнізона ўдалося выратавацца толькі 25 гітлераўцам. Партызаны захапілі вял. колькасць боепрыпасаў, 72 кав. коні, павозкі, сёдлы, харчаванне, казармы спалілі. *У. С. Пасэ.*

**ШАЦЬКО́** Вікенцій Данілавіч (падп. псеўданім О г н е ў; 1.4.1918, Мінск — люты 1944), удзельнік *Мінскага партыйнага падполля.* Чл. КПСС з 1941. У 1932—39 працаваў на з-дзе імя С. М. Кірава ў Мінску. З 1939 на сав. рабоце ў Беластоцкім р-не. З 1941 кіраўнік падп. групы на Мінскім чыг. вузле. Пад яго кіраўніцтвам падпольшчыкі толькі ў крас.— маі 1943 узарвалі 4 эшалоны ворага з гаручым і авіябомбамі. Падтрымліваў сувязь з атрадам імя А. В. Суворава партыз. брыгады «Народныя мсціўцы». У жн. 1943 арыштаваны і пакараны смерцю гітлераўцамі. У Мінску яго імем названа вуліца.

**ШАШУ́РА** Андрэй Сямёнавіч (ліст. 1914, в. Жураўка Краснапольскага р-на Сумскай вобл.— 12.4.1944), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1939. З 1931 у Чырв. Арміі. У партызанах з ліп. 1941: камандзір групы, з крас. 1942 атрада, з студз. 1943 *партызанскай брыгады 161-й імя Р. І. Катоўскага.* Загінуў у баі.

**ШКАБА́РЫН** Афанасій Гурынавіч (1905, пас. Высокае Аршанскага р-на — 1942), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт.-камсам. падполля ў Оршы. Чл. КПСС. Да вайны сакратар партарганізацыі Высокаўскага спіртзавода Аршанскага р-на. Пакінуты ў тыле ворага для разгортвання падп. барацьбы. З 16.7.1941 чл. Аршанскага падп. партцэнтра, з жн. нам. сакратара падп. парт. арг-цыі ў горадзе, адзін з кіраўнікоў *Аршанскага партыйна-камсамольскага падполля.* У кастр. 1942 схоплены гітлераўцамі і расстраляны.

**ШКЛЕНСК,** вёска на тэр. Гродзенскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км на Пд ад в. Навасёлкі Азёрскага сельсавета, на 37-м км шашы Гродна — Астрына. Перад вайной у ёй жылі 83 чал. 18.7.1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 67 жыхароў, у т. л. 38 дзяцей, вёску (17 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**ШКЛОЎ,** горад, цэнтр Шклоўскага р-на, на р. Дняпро. За 30 км на Пн ад Магілёва, чыг. станцыя на лініі Орша — Магілёў, аўтадарогай звязаны з аўтамагістраллю Орша—Магілёў, 8,1 тыс. жыхароў у 1939. У пач. вайны ў Шклоўскім р-не дзейнічала ваенізаваная група садзеяння, якая выконвала функцыі знішчальнага батальёна. У пач. ліп. 1941 жорсткія баі ў раёне Ш. супраць 2-й ням. танк. групы ген. Гудэрыяна вялі 110-я (палк. В. А. Хлябцоў) на ўчастку Шклоў — Масток і 53-я (палк. Ф. П. Канавалаў) на ўчастку Шклоў—Копысь стралк. дывізіі 61-га стралк. корпуса 13-й арміі. Пад ударамі намнога большых сіл праціўніка 53-я дывізія, што панесла вял. страты, вымушана была адступіць. 11 ліп. танк. часці ням. 46-га матарызаванага корпуса фарсіравалі Дняпро ў раёне Ш. 12.7.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія за гады акупацыі знішчылі ў горадзе і раёне 7504 чал., у т. л. ў Ш. ў вер. 1941 каля 3 тыс. чал. У Ш. і раёне дзейнічалі *Шклоўскае партыйна-камсамольскае падполле,* Шклоўскія падп. райкомы КП(б)Б (28.6.1943—29.6. 1944) і ЛКСМБ (1.6.1943—29.6. 1944), партыз. брыгада «Чэкіст», асобныя партыз. атрады 1-ы, 5, 10, 20, 25, 60-ы імя М. Ф. Сядлецкага, якія ўваходзілі ў *Шклоўскую ваенна-аператыўную групу,* а таксама партыз. брыгады «Звязда», 35-я, 61-я, 115-я Горацкая, партыз. полк 277-ы, асобныя партыз. атрады 2-і, 3-і, 112-ы Горацкі, 278-ы (гл. адпаведныя артыкулы); выдавалася падп. газ. *«За Родину».* Вызвалены 27.6.1944 часткаю сіл 70-й (палк. М. М. Калеснікаў), 222-й (палк. А. М. Юрын) стралк. дывізій 33-й арміі і часткай сіл штурмавой і знішчальнай авіядывізій 4-й паветр. арміі 2-га Бел. фронту ў ходзе *Магілёўскай аперацыі 1944.* У Ш. брацкая магіла сав. воінаў, на якой пастаўлены помнік; помнікі сав. воінам і землякам, рабочым папяровай ф-кі «Спартак», якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны; мемар. дошкі ў гонар воінаў 70-й стралк. дывізіі, што вызвалялі Ш., і ў памяць аб рабочых ільнозавода, якія загінулі ў вайну. *В. В. Гетаў.*

**ШКЛО́ЎСКАЕ ПАРТЫ́ЙНА-КАМСАМО́ЛЬСКАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала ў жн. 1941—ліст. 1943 у Шклоўскім р-не. Складалася з арг-цый, якія налічвалі 13 падп. груп, больш

за 100 падпольшчыкаў, у т. л. 32 камуністы і 39 камсамольцаў. Групы, створаныя з рабочых, калгаснікаў, настаўнікаў, мед. работнікаў, студэнтаў, хатніх гаспадынь, спачатку дзейнічалі самастойна, да пач. 1942 аб'ядналіся ў падп. арг-цыі. Важную ролю ў стварэнні падполля адыгралі ваеннаслужачыя Чырв. Арміі, што выйшлі з акружэння

І. Я. Шаўроў. Ф. Шменкель.



або ўцяклі з палону. Патрыёты падтрымлівалі сувязь з кіраўніцтвам *Магілёўскага партыйна-камсамольскага падполля,* камандаваннем *партызанскай брыгады «Чэкіст»,* з лета 1943 працавалі пад кіраўніцтвам Шклоўскага падп. РК КП(б)Б. Падп. арг-цыя Гарадзецкага і Славенскага сельсаветаў, якую ўзначальвалі камуністы камандзір Чырв. Арміі Іосіф Ф. Стукалаў, потым А. Я. *Казлоў,* аб'ядноўвала 5 падп. груп: 3 у в. Любінічы (кіраўнікі Іосіф Стукалаў, Казлоў, камуніст М. М. Юр'еў, камсамольцы В. Ц. Грыгор'еў, У. Ц. Гурынаў, Іван Ф. Стукалаў, беспарт. А. П. Гелахаў), група Любініцкай МТС (камсамольцы П. І. Рыбакоў, Р. В. Міронаў), в. Лешча (В. М. Шалаеў). У арг-цыю Старавадзянскага і Каменналаўскага сельсаветаў, якую ўзначальваў б. рабочы чыг. ст. Шклоў С. Л. Шугалей, уваходзілі падп. групы на чыг. ст. Лотва (кіраўнік Ф. С. Грышчанкаў) і ў в. Малое Міхайлава (Шугалей). Арг-цыя «Патрыёт Радзімы», якую ўзначальваў камуніст капітан Чырв. Арміі М. М. Ляднёў (пасля яго гібелі — настаўнік А. А. Сякацкі), дзейнічала на тэр. Таўкачоўскага, Чарнаруцкага і Вялікалазіцкага сельсаветаў, налічвала 6 груп: у в. Вялікія Лазіцы (кіраўнікі камандзір Чырв. Арміі М. П. Каржавін, камсамолец М. Ф. Галіноўскі), в. Гавяды (камуніст Г. А. Валаснёў і камсамолка П. А. Крынічка), в. Тударава (камуністы І. В. Кананыхін і Л. Р. Камісараў), в. Смятанічы (камуністы П. А. і Р. А. Красяковы), в. Мерч (камуніст Ц. А. Герасімовіч), в. Зацішша (Сякацкі).

З першых дзён акупацыі камуністы і камсамольцы, беспарт. актывісты праводзілі гутаркі, распаўсюджвалі сав. лістоўкі. Па радыё прымалі зводкі Саўінфармбюро, пісалі і распаўсюджвалі іх. Радыёпрыёмнікі былі ў Грыгор'ева, Рыбакова, Шугалея, Герасімовіча. Лістоўкі перадавалі на явачных кватэрах, якія ўтрымлівалі І. Д. Гуркін, Г. В. Бондарава (в. Любінічы), Б. А. Атрошчанка (в. Гавяды), А. Р. Красякоў, Сякацкі, Л. В. Кандраценка (в. Лазіцы). Явачныя кватэры адначасова служылі і складамі зброі. У доме Гуркіна зброю рамантавалі. Патрыётамі Гарадзецкага і Славенскага сельсаветаў было сабрана і перададзена партызанам 2 станковыя, 9 ручных кулямётаў, 2 мінамёты, вял. колькасць вінтовак і боепрыпасаў. Перавозілі зброю К. В. Рыбакова (Міронава) і М. І. Новікаў. Падпольшчыкі арг-цыі «Патрыёт Радзімы» перадалі партызанам і выкарысталі самі шмат зброі, патронаў. Устанавіўшы ў снеж. 1941 праз падпольшчыка в. Зацішша А. І. Галісевіча сувязь з Магілёўскім падполлем, удзельнікі арг-цыі «Патрыёт Радзімы» атрымлівалі з горада зброю, боепрыпасы і перадавалі іх у брыгаду «Чэкіст». Для перавозкі зброі Галісевіч і Г. М. Андрэеў выкарыстоўвалі павозку з двайным дном. У студз. 1942 любініцкія патрыёты Іосіф і Іван Стукалавы, М. І. Падчашанка на шашы Орша — Магілёў знішчылі ням. аўтамашыну. 24.5.1942 падпольшчыкі вёсак Любінічы і Лешча Грыгор'еў, П. С. Хамелеў, В. М. і П. М. Шалаевы, С. А. Шопін разам з партызанамі разграмілі паліцэйскі ўчастак і маслазавод у в. Гарадзішча, праз тыдзень — у в. Фашчаўка. У 1941 браты Фёдар, Іван, Дзяніс Грышчанковы пусцілі пад адхон варожы эшалон, узарвалі каля в. Малое Міхайлава 2 аўтамашыны. У крас. 1942 патрыёты в. М. Міхайлава спалілі ў в. Лотва сепаратарны пункт. Я. М. Снытко ўзарваў машыннае аддзяленне Латвянскага цагельнага з-да. Да канца 1942 братамі Грышчанковымі на чыгунцы Шклоў — Магілёў было ўзарвана 3 паравозы, 13 вагонаў, знішчаны 2 цыстэрны з бензінам. У кастр. 1941 падпольшчыкі в. Смятанічы на чале з П. А. Красяковым пусцілі пад адхон паравоз і 2 вагоны, у ліст.— снеж. 1941 група в. Мерч з засады на дарозе знішчыла 8 варожых салдат. Рэгулярна рабілі дыверсіі патрыёты в. Гавяды, Тударава, Зацішша: падпілоўвалі тэлеграфныя слупы, рвалі тэлефонную сувязь, разбіралі драўляныя масты. Падпольшчыкі падтрымлівалі сувязь з партызанамі, перадавалі ім звесткі аб праціўніку, зброю, боепрыпасы, харчы. Сувязнымі былі Атрошчанка, М. Ф. Галіноўскі, Галісевіч, Герасімовіч, сёстры В. К. і М. К. Данільчанкі, Ф. І. Казлоў, Л. В. Кандраценка, Сякацкі, У. І. Янчэўскі і інш.

У барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў загінулі А. П. Гелахаў, В. Ц. Герасімовіч, Х. Ц. Герасімовіч, І. Д. Гуркін, А. Я. Казлоў, А. Р. Красякоў, В. Дз. Кулікова, М. М. Ляднёў, А. Я. Маргуноў, Р. В. Міронаў, К. І. Новікаў, М. І. Новікаў, М. І. Падчашанка, А. Ф. Стукалава, А. А. Сякацкая, А. А. Сякацкі, М. М. Юр'еў.
*М. Ф. Шумейка.*

**ШКЛО́ЎСКАЯ ВАЕ́ННА-АПЕРАТЫ́ЎНАЯ ГРУ́ПА,** Шклоўская ВАГ, Ваенна-аператыўная група пры Шклоўскім падпольным райкоме КП(б)Б, партыз. злучэнне, якое дзейнічала на акупіраванай тэр. Шклоўскага, Бялыніцкага, Круглянскага, Талачынскага, Аршанскага р-наў; таксама назва органа кіраўніцтва гэтым злучэннем. Уваходзіла ў *Магілёўскае партызанскае злучэнне.*

Створана ў жн. 1943 на базе партыз. атрадаў 1-га, 5, 10, 15, 20, 25, 40-га, *партызанскай брыгады «Чэкіст».* У вер. 1943 створаны атрад 60-ы, у кастр.— атрад 31-ы. У снеж. 1943 атрады 15-ы і 40-ы перададзены *партызанскай брыгадзе 8-й.* Кіраўніцтва ВАГ: сакратары падп. РК КП(б)Б Ф. І. *Букштынаў,* А. У. Бай; камандзір Г. А. *Кірпіч;* нач. штаба Р. М. Севасцьянаў. 29.6.1944 ВАГ (2617 партызан) злучылася з Чырв. Арміяй.
*П. С. Паўлавец.*

**ШКО́ЛА ЦК КП(Б)Б І АПЕРАТЫ́ЎНА-НАВУЧА́ЛЬНЫ ЦЭНТР.** Школа ЦК КП(б)Б створана 10.7.1941. Нач. школы — заг. ваен. аддзела СНК БССР І. П. Куцейнікаў, камісар — Я. Г. Пузыроў, інструктар — палк. І. Р. *Старынаў.* Колькасць навучэнцаў — 400 чал. Загадам наркома абароны СССР С. К. Цімашэнкі ад 13.7.1941 на базе школы арганізаваны спец. Аператыўна-навучальны цэнтр пры галоўнакамандаванні Зах. фронтам. Нач. цэнтра палк. Старынаў, нам. нач. Куцейнікаў, камісар — батальённы камісар В. Ф. Макараў. Школа ЦК КП(б)Б і Аператыўна-навучальны цэнтр выконвалі адну і тую ж задачу — цэнтралізавана рыхтавалі спецыялістаў для партыз. руху, падрыўнікоў, работнікаў парт. падполля. Мелі 2 аддзелы: навучальны і аператыўны, а таксама майстэрню. Пункты Аператыўна-навучальнага цэнтра былі створаны пры 3-й, 13-й і 21-й арміях Цэнтр. фронту. У праграму падрыхтоўкі спецыялістаў уваходзіла палітпадрыхтоўка, мінна-падрыўная справа, правілы канспірацыі і сувязі, разведкі, тапаграфія, тактыка вядзення партыз. вайны, вывучэнне айчыннай і трафейнай стралк. зброі. Інструктаж партызан-падрыўнікоў праводзіўся на мясцовасці ў абстаноўцы, набліжанай да баявой. Школа і цэнтр знаходзіліся ў в. Маркавічы Цerахоўскага р-на Гомельскай вобл., пасля па меры набліжэння фронту, у Гомелі, Белых Берагах Арлоўскай вобл., Туле, Разані, Маскве. Філіялы і аддзяленні школы і цэнтра дзейнічалі ў Мазыры, Тамбоўскай і Разанскай абл. Засылка дыверсійных груп у тыл ворага здзяйснялася ў прыфрантавой палосе ў раёне Оршы, Віцебска, Бабруйска, Асіповіч, Мінска, Слуцка, Гомеля і інш. У Беларусь групы перапраўляліся: на ўчастку Цэнтр. фронту — 131 група, 902 чал.; на Бранскім — 89 груп, 391 чал.; Калінінскім — 33 групы, 215 чалавек. За час работы цэнтра і школы з ліп. 1941 да ліп. 1942 падрыхтавана каля 10 тыс. чал., у т. л. ў раёнах БССР 3490, сярод іх інструктараў мінна-падрыўной справы 390, у Арлоўскай вобл. 932, у Тульскай 302, у Тамбоўскай 1132, у Маскве 1574 чал., у т. л. 303 інструктары. Аператыўна-навучальны цэнтр і школа

забяспечылі ў значнай ступені кадрамі па мінна-падрыўной справе школы Цэнтр., Бел., Укр., Літоўскага, Латышскага штабоў партыз. руху і штабоў франтоў. Пры цэнтры ў маі — чэрв. 1942 быў праведзены спец. збор каманднага складу Зах. фронту. Тут прайшлі навучанне 64 чал., якіх накіравалі ў партыз. атрады камандзірамі, камісарамі, нач. штабоў. У майстэрні школы і на мясцовых прадпрыемствах было выраблена проціпаязных і аўтадарожных мін 8163, запальных снарадаў 7926, гранат 24 200, прылад для ўзрываў 34 700. Практычны вопыт школы і цэнтра па падрыхтоўцы і масавай засылцы ў варожы тыл партыз. кадраў па просьбе ЦК КП(б)У быў перададзены на Украіну. Яго шырока выкарыстоўвалі ў Калінінскай, Арлоўскай, Тульскай, Варонежскай абл. 15.7.1942 загадам наркома абароны Школа ЦК КП(б)Б і Аператыўна-навучальны цэнтр былі ліквідаваны, асабовы склад і матэрыяльная частка перададзены на фарміраванне спецшколы № 2, якая стала рыхтаваць кадры для ўсёй акупіраванай тэр. Сав. Саюза. *У. М. Якубоўскі.*

**ШКРЭ́ДА** Рычард Уладзіслававіч (26.12.1910, в. Ноўка Гарадоцкага р-на — 8.9.1982), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1932. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1950). З 1929 рабочы, у органах НКУС. З 1940 на сав. і гасп. рабоце ў Суражскім р-не. У партызанах з ліп. 1941: камандзір разведкі, групы, камісар атрада, у крас. 1942 — жн. 1943 камісар *партызанскай брыгады 1-й Беларускай,* у вер. 1943 — чэрв. 1944 камісар, адначасова з лют. 1944 камандзір *партызанскай брыгады 1-й Беларускай* (2-га складу), чл. Суражскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—71 на парт., сав., адм.-гасп. і прафс. рабоце ў Віцебскай вобл.

**ШЛАПАКО́Ў** Іван Раманавіч (н. 2.5. 1909, с. Самсоны Краснінскага р-на Смаленскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1938. З 1929 на гасп. і камсам. рабоце. З ліп. 1941 на фронце. У партызанах з жн. 1941, у студз.— ліп. 1942 камандзір атрада, у жн. 1942 — ліп. 1944 — *партызанскай брыгады 16-й Смаленскай.* Да 1958 у Сав. Арміі.

**«ШЛЯХ САЦЫЯЛІ́ЗМА»,** газета, заснавана ў 1931. У час ням.-фаш. акупацыі орган Жлобінскага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 6 нумароў за 30.7—13.11.1943 на бел. мове. Рэдактар М. М. Целяпнёў. Пасля вызвалення выдавалася пад той жа назвай, з 1962 «Камуніст», орган Жлобінскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**«ШЛЯХ САЦЫЯЛІ́ЗМА»,** газета, заснавана ў 1935. У час ням.-фаш. акупацыі орган Мінскага сельскага падп. РК КП(б)Б. Вядомы 28 нумароў за 13.5.1943—21.6.1944 на бел. мове (асобныя нумары і частка матэрыялаў інш. нумароў на рус. мове). Рэдактар Я. К. Ахрамовіч. Пасля вызвалення выдавалася пад той жа назвай, з 1962 «Шлях камунізма», орган Мінскага РК КПБ і раённага Савета нар. дэпутатаў.

**ШЛЯХТУНО́Ў** Фёдар Сазонавіч (17.9. 1896, в. Сінякова Бешанковіцкага р-на — 13.5.1972), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Вілейскай вобл. Чл. КПСС з 1919. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1952). З 1915 у арміі, з 1917 у Чырв. гвардыі, Чырв. Арміі. З 1921 на сав. і адм.-гасп. рабоце. У партызанах з кастр. 1941: камандзір групы, з чэрв. 1942 атрада, у снеж. 1942 — студз. 1943 і сак.— кастр. 1943 камандзір *партызанскай брыгады імя Л. М. Даватара,* у студз.— сак. 1943 — *партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава.* З 1944 у СНК БССР, у 1947—60 на адм.-гасп. рабоце.

**ШМЕ́НКЕЛЬ** (Schmenkel) Фрыц (14.2. 1916, г. Варзоў, Германія — 22.2. 1944), нямецкі антыфашыст, Герой Сав. Саюза (1964). У 1938 прызваны ў армію. Адмовіўся служыць фашызму, у кастр. 1939 дэзерціраваў, за што быў засуджаны. У 2-ю сусв. вайну яфрэйтар вермахта на Усх. фронце. Восенню 1941 кінуў сваю часць і пасля пошукаў партызан трапіў у атрад «Смерць фашызму» на Смаленшчыне. За мужнасць і гераізм, праяўленыя ў барацьбе з фашызмам, узнаг. ордэнам Чырв. Сцяга (1943). У снеж. 1943 пры выкананні баявога задання схоплены фашыстамі і расстраляны. У Мінску на будынку, дзе Ш. быў прыгавораны да пакарання смерцю, мемар. дошка. Яго імем у ГДР названы школы, НДІ, вуліцы, аўтазавод і 3 прадпрыемствы. Кінематаграфістамі ГДР і БССР пра Ш. зняты фільм «Я хачу вас бачыць».

**ШМЕ́Я** Іван Сцяпанавіч (н. 29.6.1921, Віцебск), поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПСС з 1950. На фронце з 1941. Камандзір аддзялення разведкі мал. сяржант Ш. вызначыўся ў баях на тэр. Літвы і Усх. Прусіі. У кастр. 1944 у час разведкі на ПнЗ ад г. Шаўляй знішчыў 18 гітлераўцаў, падбіў 2 аўтамашыны, захапіў кулямёт; 25.1.1945 каля Тыльзіта з групай разведчыкаў сабраў звесткі аб праціўніку, знішчыў 11 гітлераўцаў, 34 узяў у палон; 8.4.1945 пры штурме Кёнігсберга з групай разведчыкаў у тыле ворага знішчыў 2 кулямёты з разлікамі, 6 аўтаматчыкаў, узяў у палон 42 гітлераўцаў, захапіў 21 аўтамат, 30 вінтовак і харчовы склад. Жыве і працуе ў г. Дзяржынск Мінскай вобл.

**ШМЫ́ГА** Іван Сцяпанавіч (30.1.1896, в. Дабраволя Свіслацкага р-на — 14.6.1978), ген.-лейтэнант (1945). Член КПСС з 1926. У арміі з 1915, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў ваен. акадэміі імя Фрунзе (1931), Генштаба (1938). З 1940 нач. аддзела Генштаба Чырв. Арміі. З 1941 на Зах., Паўн.-Зах., Варонежскім і 1-м Укр. франтах: нам. нач. штаба арміі, нач. аператыўнага аддзела штаба фронту, нач. штаба і нам. камандуючага арміяй, камандзір стралк. корпуса. Удзельнік Курскай бітвы, вызвалення Украіны, Польшчы, Чэхаславакіі. Да 1956 на выкладчыцкай рабоце ў Ваен. акадэміі імя Фрунзе, потым у Міністэрстве ўнутраных спраў СССР.

І. С. Шмея. І. С. Шмыга.



**ШМЫГУ́Н** Аркадзь Карпавіч (5.11. 1908, в. Старая Шараёўшчына Бабруйскага р-на — 16.4.1945), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1931. У Чырв. Арміі з 1930. Скончыў курсы «Выстрал» (1937). Са жн. 1944 на 1-м Бел. фронце. Полк пад камандаваннем маёра Ш. вызначыўся ў баях на тэр. Польшчы і Германіі: фарсіраваў Віслу, 2 дні вёў упартыя баі за Варшаву; 16.4.1945 у баі на подступах да Берліна ўварваўся ў акопы праціўніка. Ш. загінуў у гэтым баі. Пахаваны ў г. Дэмбна (ПНР).

**ШМЫРО́Ў** Мінай Піліпавіч (партыз. псеўд. Бацька Мінай; 23.12.1891, в. Пунішча Віцебскага р-на — 3.9. 1964), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1920. У арміі з 1913. Удзельнік грамадз. вайны. Узнаг. ордэнам Чырв. Сцяга. З 1923 на гасп. рабоце ў Віцебскай вобл. У ліп. 1941 арганізаваў і ўзначаліў партыз. атрад у Суражскім р-не, які ўвайшоў у склад *партызанскай брыгады 1-й Беларускай,* з крас. 1942 камандзір гэтай брыгады. З ліст. 1942 у ЦШПР. Пасля вайны на сав. і гасп. рабоце ў Віцебскай вобл. Чл. ЦВК БССР у 1935—38. Дэп. ВС БССР у 1947—63. Яго імем названы вуліца, парк, прафесійна-тэхн. вучылішча, школа ў Віцебску, саўгас, эксперыментальная база, Запольская сярэдняя школа ў Віцебскім р-не, вуліца ў г. п. Сураж. У Віцебску створаны мемар. музей Ш. (гл. *Віцебскі абласны музей Героя Савецкага Саюза М. П. Шмырова*), пастаўле-

ны 2 помнікі — на яго радзіме і ў в. Пудаць Віцебскага р-на, дзе Ш. быў створаны партыз. атрад, абеліскі.

**ШОСТАЯ ГВАРДЗЕЙСКАЯ АРМІЯ.** Створана 16.4.1943 у выніку пераўтварэння 21-й арміі. У яе склад увайшлі 6 стралк. дывізій, якія пазней былі зведзены ў 22-і і 23-і гвардз. стралк. карпусы. Летам 1943 войскі арміі ў складзе Варонежскага фронту

А. К. Шмыгун. М. П. Шмыроў.



ўдзельнічалі ў *Курскай бітве 1943.* З кастр. 1943 у складзе 2-га Прыбалт. фронту, удзельнічала ў разгроме невельскай групоўкі праціўніка. Летам 1944 у складзе 1-га Прыбалт. фронту армія ўдзельнічала ў *Беларускай аперацыі 1944.* У гэты перыяд у склад арміі ўваходзілі 4 стралк. корпусы, 2 танк. брыгады і шэраг арт., мінамётных і інш. брыгад і часцей. У час *Полацкай аперацыі 1944* яна ва ўзаемадзеянні з інш. злучэннямі фронту 4.7.1944 вызваліла г. Полацк. У баях за горад вызначыліся 29-я стралк. дывізія, 333-і і 335-ы гвардз. цяжкія самаходныя арт. палкі, 45-я асобная знішчальная процітанк. арт. брыгада, 283-і гаўбічны арт. полк, 408-ы армейскі мінамётны полк, 22-і і 99-ы асобныя гвардз. мінамётныя палкі рэактыўнай артылерыі, якім нададзены ганаровыя найменні «Полацкіх». У перыяд вызвалення Прыбалтыкі армія ўдзельнічала ў Шаўляйскай, Рыжскай і Мемельскай аперацыях. У канцы вайны вяла баі супраць буйной групоўкі ням.-фаш. войск, прыціснутых да мора на Курляндскім паўвостраве. За доблесць і адвагу 160 воінам арміі прысвоена званне Героя Сав. Саюза, тысячы воінаў узнаг. ордэнамі і медалямі СССР.

Камандуючы — ген.-лейт., з 28.6.1944 ген.-палк. І. М. *Чысцякоў* (крас. 1943— да канца вайны). *М. І. Камінскі.*

**ШОСТАЯ ПАВЕТРАНАЯ АРМІЯ.** Сфарміравана ў чэрв. 1942 на базе ВПС Паўн.-Зах. фронту ў складзе 5 авіядывізій, 7 мяшаных авіяпалкоў і 3 асобных авіяэскадрылляў. Вяла баявыя дзеянні ў раёнах Дзямянска, Старой Русы, Невеля і інш. У ліст. 1943 частка злучэнняў і часцей арміі перададзена ў склад 15-й паветр. арміі. У лют. 1944 армія перададзена ў склад 2-га Бел. фронту для падтрымкі войск фронту ў перыяд іх наступлення на ковельскім напрамку. З крас. 1944 армія ў складзе 1-га Бел. фронту з аператыўным падпарадкаваннем камандуючаму 16-й паветр. арміі. Летам 1944 армія ў складзе 3 авіядывізій і 3 авіяпалкоў удзельнічала ў вызваленні Беларусі і Польшчы, вяла напружаныя баявыя дзеянні ў ходзе *Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944.* За перыяд з 15 сак. да 31 жн. 1944 армія зрабіла 23 тыс. самалёта-вылетаў, у выніку якіх праціўніку былі нанесены значныя страты ў жывой сіле і тэхніцы. У вер. 1944 армія выведзена ў рэзерв Стаўкі ВГК. Усяго за гады вайны злучэнні і часці арміі зрабілі больш за 120 тыс. самалёта-вылетаў.

Камандуючыя: ген.-маёр авіяцыі Д. Ф. Кандрацюк (чэрв. 1942— студз. 1943), ген.-маёр авіяцыі, з 28.5.1943 ген.-лейт. авіяцыі Ф. П. *Палынін* (студз. 1943— кастр. 1944). *М. І. Камінскі.*

**ШОШЫНСКАЯ АПЕРАЦЫЯ 1942,** аперацыя партыз. брыгады «Смерць фашызму» (гл. *Партызанская брыгада імя В. І. Чапаева* Віцебскай вобл.) па знішчэнню чыг. моста цераз р. Шоша на чыг. лініі Маладзечна — Полацк на ўчастку Падсвілле — Зябкі ў Глыбоцкім р-не 17.9.1942.

Праводзілася па загаду начальніка ЦШПР, які паставіў у вер. 1942 перад брыгадай «Смерць фашызму» задачу вывесці са строю чыгунку Маладзечна — Полацк. План аперацыі быў распрацаваны камандаваннем брыгады. Агульнае кіраўніцтва аперацыяй ажыццяўляў камандзір брыгады У. В. *Мельнікаў.* У аперацыі ўдзельнічалі 1-ы і 3-і атрады (камандзіры А. Я. Конеў і М. І. Ражноў) брыгады «Смерць фашызму» і партыз. група М. З. Умінскага, якая прыбыла ў ліп. 1942 з-за лініі фронту.

Разведка партызан устанавіла, што чыг. мост (даўжынёй 35 м) цераз р. Шошу ахоўваецца гарнізонам, які размяшчаўся ў каравульным памяшканні на левым беразе ракі, непадалёку абапал моста дзоты, акопы, загароды з дроту, падыходы да моста адкрытыя і добра прыстраляныя, у бліжэйшых гарнізонах праціўніка на станцыях Падсвілле і Зябкі каля 170 гітлераўцаў. У ноч на 17 вер., выставіўшы заслон з боку казарм, партызаны скрытна падпаўзлі з паўн. боку да дзота і занялі яго. Адкрыўшы са станковага кулямёта агонь па ахове моста, яны скавалі праціўніка і далі магчымасць падрыўнікам замініраваць і ўзарваць мост. У ходзе бою было забіта 37 і паранена 5 гітлераўцаў. У выніку аперацыі рух паяздоў па дарозе быў спынены на 15 сутак. *М. У. Філімоненкаў.*

**ШПАК** Максім Васілевіч (1903, Магілёў — жн. 1954), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1924. Скончыў Ленінградскі камуніст. ун-т (1929). З 1928 на парт. і гасп. рабоце. У вайну партызан, чл. магілёўскай падп. арг-цыі — Камітэт садзеяння Чырвонай Арміі (гл. ў арт. *Магілёўскае партыйна-камсамольскае падполле*), з крас. 1943 упаўнаважаны Магілёўскага падп. абкома КП(б)Б у паўн.-ўсх. раёнах вобласці, з 23.4 да 30.6.1944 сакратар *Магілёўскага падпольнага абкома КП(б)Б,* адзін з кіраўнікоў *Магілёўскага партызанскага злучэння.* З ліп. 1944 нам. наркома (з 1946 нам. міністра) лясной і дрэваапрацоўчай прамысловасці БССР, дырэктар леспрамгасаў. Канд. у чл. ЦК КП(б)Б у 1932—34.

**ШПЕТНЫ** Павел Іванавіч (1913, в. Гдзень Брагінскага р-на — 13.7. 1943), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1940. У Чырв. Арміі з 1936. З ліп. 1941 на Зах., Сталінградскім, Варонежскім франтах. Камандзір узвода процітанк. ружжаў ст. лейтэнант Ш. вызначыўся ў Курскай бітве. 12—13.7.1943 у баях за вышыню з процітанк. ружжа падбіў 6 танкаў. Калі скончыліся боепрыпасы, са звязкай процітанк. гранат кінуўся пад варожы танк і цаною жыцця сарваў контратаку праціўніка. Пахаваны ў с. Карташоўка Прахараўскага р-на Белгародскай вобл. Яго імем названы вуліца і школа на радзіме.

**ШТЫКАЎ** Цярэнцій Фаміч (13.3.1907, хутар Любкі, Гарадоцкі р-н Віцебскай вобл.— 25.10.1964), сав. парт. і дзярж. дзеяч, дыпламат, ген.-палкоўнік (1944). Чл. КПСС з 1929. З 1931 на камсам., парт. і сав. рабоце ў Ленінградзе. У 1938—42 2-і сакратар Ленінградскага абкома ВКП(б). У Айч. вайну чл. ваен. савета Ленінградскага, Волхаўскага, Карэльскага, 1-га Далёкаўсх. франтоў, Прыморскай групы войск. Пасля вайны чл. ваен. савета, нам. камандуючага войскамі Прыморскай ваен. акругі. У 1948—51 надзвычайны і паўнамоцны пасол СССР у КНДР. З 1951 на парт. рабоце: 1-ы сакратар Наўгародскага абкома, Прыморскага крайкома КПСС. У 1959—61 надзвычайны і паўнамоцны пасол СССР у ВНР, потым у органах парт.-дзярж. кантролю. Канд. у чл. ЦК ВКП(б) у 1939—52, чл. ЦК КПСС у 1956—61. Дэп. ВС СССР у 1937—50, 1954—62.

**ШУБА** Аляксей Іванавіч (25.2.1912, в. Падарэссе Старадарожскага р-на — 26.12.1971), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Герой Сацыяліст. Працы (1969). Засл. ўрач БССР (1948). Чл. КПСС з 1942. Скончыў Мінскі мед. ін-т (1939). Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну з снеж. 1941 арганізатар і кіраўнік партыз. групы ў Старых Дарогах. З чэрв. 1942 камандзір атрада, у сак. 1943— ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады 100-й імя С. М. Кірава.* У 1944—50 заг. аддзела аховы здароўя Мінскага гарвыканкома. У 1952—71 гал. ўрач 1-й клінічнай бальніцы г. Мінска.

**ШУБІН** Георгій Аляксеевіч (н. 28.5.

1916, в. Солтынь Урупінскага р-на Валгаградскай вобл.), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху і камсам. падполля ў Баранавіцкай вобл. Доктар гіст. навук (1977), прафесар (1977). Чл. КПСС з 1944. Скончыў Сталінградскі пед. ін-т (1945). З 1940 у Чырв. Арміі, удзельнік абароны Полацка. У партызанах з ліп. 1942: камандзір групы, з ліст. 1942 камісар атрада, з мая 1943 нам. камісара, з вер. 1943 нач. штаба брыгады, з чэрв. 1944 камандзір *партызанскай брыгады Ленінскай* Баранавіцкай вобл. Ш. з'яўляўся арганізатарам і кіраўніком камсам. падполля ў Дзятлаўскім і Казлоўшчынскім р-нах Баранавіцкай вобл. З 1946 на камсам., парт. і пед. рабоце. У 1964—87 заг. кафедры гісторыі КПСС у Валгаградскім с.-г. ін-це. Аўтар манаграфіі «З гісторыі ўсенароднай барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у заходніх абласцях Беларусі (чэрвень 1941— ліпень 1944 гг.)» (1972).

**ШУБІТЫ́ДЗЕ** Іван Георгіевіч (23.11. 1906, с. Келеты Гарыйскага р-на Грузінскай ССР — 13.1.1978), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Пінскай вобл. Чл. КПСС з 1929. З 1928 у Чырв. Арміі. З чэрв. 1941 на фронце. У партызанах з кастр. 1941: камандзір групы, нам. камандзіра, з ліп. 1943 камандзір атрада, у жн. 1943— сак. 1944 — *партызанскай брыгады Пінскай.* У 1944—71 на сав. рабоце ў Пінску і Віцебску. Аўтар кн. «Палескія былі» (1974). Ганаровы грамадзянін Пінска. Адна з вуліц горада названа яго імем.

**ШУБЯНО́К** Энна Піліпаўна (1916, г. Філадэльфія, ЗША — ліст. 1941), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсам.-маладзёжнага падполля і партыз. руху ў Палескай вобл. Чл. КПСС з 1941. У 1930-я г. перадавы механізатар на Палессі. З 1940 сакратар Тураўскага РК ЛКСМБ, канд. у чл. ЦК ЛКСМБ. Са жн. 1941 сакратар Тураўскага падп. РК ЛКСМБ. У ліку першых сав. партызан 7.8.1941 узнаг. медалём «За адвагу». Правяла вял. работу па стварэнню камсам.-маладзёжнага падполля на тэр. Тураўскага р-на. У ліст. 1941 схоплена гітлераўцамі і закатавана.

**ШУГА́ЕЎ** Мікалай Аляксандравіч (1912, г. Сормава Горкаўскай вобл.— 27.4.1943), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў *Мінскага партыйнага падполля.* Чл. КПСС. У пач. 1930-х г. у ліку 25-тысячнікаў накіраваны на Беларусь. Працаваў пам. нач. палітаддзела саўгаса «10-годдзе БССР» Любанскага р-на, інструктарам ЦК КП(б)Б, у апараце Наркамата мясцовай паліўнай прамысловасці БССР. З першых дзён акупацыі ўключыўся ў падп. барацьбу супраць ням.-фаш. захопнікаў, стварыў і ўзначаліў дыверсійную групу ў Варашылаўскім р-не г. Мінска. З мая 1942 сакратар Варашылаўскага падп. РК КП(б)Б. Пры яго ўдзеле створана *партызанская брыгада «Штурмавая».* Арыштаваны акупантамі ў кастр. 1942 і закатаваны ў мінскай турме. У Мінску яго імем названа вуліца.

**ШУЛЬГО́ЎСКІ** Фёдар Несцеравіч (22.4. 1893, г. п. Коханава Талачынскага р-на — 21.1.1968), ген.-лейт. інж.-тэхн. службы (1943). Чл. КПСС з 1920. У арміі з 1914, у Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Маскоўскі авіяц. ін-т (1934). У 1938—42 у Ваен.-паветр. акадэміі: ст. выкладчык, нач. кафедры, факультэта. З 1942 нач. Упраўлення ў цэнтр. апараце ВПС, у 1946—47 нач. Ленінградскай ваен.-паветр. акадэміі.

**ШУМІ́ЛІНА,** гар. пасёлак, цэнтр Шумілінскага (у 1924—61 Сіроцінскага) р-на. За 45 км на ПнЗ ад Віцебска, на аўтадарозе Віцебск — Полацк, чыг. станцыя (да 22.5.1962 наз. Сіроціна) на лініі Віцебск — Полацк. У пачатку ліпеня 1941 абарончыя баі на тэр. Сіроцінскага р-на вялі 174-я (камбрыг. А. І. Зыгін) і 186-я (ген.-маёр М. І. Бірукоў) стралк. дывізіі. 8.7.1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія за час акупацыі знішчылі ў Ш. і раёне 1498 чал. На тэр. раёна дзейнічалі Сіроцінскія падп. райкомы КП(б)Б (кастр. 1941— 2.7.1944) і ЛКСМБ (1.7.1942—2.7. 1944), партыз. брыгады імя С. М. Кароткіна, імя Леніна, імя Чапаева, 1-я Віцебская, асобны партыз. атрад «Трэці» (гл. адпаведныя артыкулы), *Обальскае камсамольска-маладзёжнае падполле.* Гітлераўцы ператварылі Ш. ў моцны вузел абароны з развітай кругавой сістэмай траншэй і апорных пунктаў, якія прыкрывалі пераправы цераз Зах. Дзвіну. Савецкія войскі атакай з фронту часткай сіл скавалі праціўніка ў раёне Ш., а гал. сіламі абышлі яго з З і ПдУ. 23.6. 1944 вызвалена воінамі 51-й (камандзір ген.-маёр С. В. Чэрнікаў) і 71-й ген.-маёр І. П. Сівакоў) стралк. дывізій 23-га гвардз. стралк. корпуса 6-й гвардз. арміі, 179-й (палк. М. М. Шкурын) і 306-й (ген.-маёр М. І. Кучаравенка) стралк. дывізій, 10-й асобнай танк. брыгады (палк. М. У. Волкаў) і 39-га гвардз. мінамётнага палка (падпалк. П. В. Шутаў) 1-га стралк. корпуса 43-й арміі 1-га Прыбалт. фронту ў ходзе *Віцебска-Аршанскай*



П. І. Шпетны. Ц. Ф. Штыкаў.



Помнік загінуўшым у Вялікую Айчынную вайну савецкім воінам, партызанам і мірным жыхарам на вайсковых могілках у Шуміліне.

41. Зак. 623.

*аперацыі 1944*. У Ш. ваен. могілкі сав. воінаў-вызваліцеляў, брацкая магіла партызан і ахвяр фашызму, на якіх пастаўлены помнікі; устаноўлены мемар. дошкі ў гонар вызвалення гар. пасёлка і Герояў Сав. Саюза П. А. *Акуцыёнка* і Дз. М. *Мінчугова*. Працуе *Шумілінскі музей народнай славы*. *Г. К. Кісялёў.*

**ШУМІЛІНСКІ МУЗЕЙ НАРОДНАЙ СЛАВЫ.** Адкрыты 22.11.1986. Экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне, мае 1270 экспанатаў, пл. 67 $м^2$. Расказваецца пра абарончыя баі воінаў 174-й і 186-й стралк. дывізій: фатаграфіі і асабістыя рэчы абаронцаў, зброя і абмундзіраванне, знойдзеныя на месцах баёў, і інш. Экспануюцца матэрыялы пра ўзнікненне і разгортванне падполля і партыз. руху ў раёне (комплексы матэрыялаў пра дзейнасць Сіроцінскага падп. РК КП(б)Б, у т. л. фатаграфіі сакратароў райкома С. М. *Кароткіна*, А. У. *Сіпко*, В. М. *Фралова*, лістоўкі, падп. газеты, фатаграфіі, асабістыя рэчы, дакументы, зброя, узнагароды партызан брыгад імя С. М. Кароткіна і імя Леніна, у т. л. П. А. *Хомчанкі*, У. М. *Талаквадзе*, М. А. *Сакмаркіна* і інш.). Прадстаўлены матэрыялы пра злачынствы ням.-фаш. захопнікаў у раёне. Расказваецца пра вызваленне Шуміліна і раёна воінамі 6-й гвардз. і 43-й армій 1-га Прыбалт. фронту (карта-схема вызвалення раёна, пісьмо на бяросце камандзіра кулямётнай роты 51-й стралк. дывізіі В. Н. Юзікава, гімнасцёрка Героя Сав. Саюза І. Е. Малышава, палявы тэлефонны апарат, тэлеграфны апарат «Бадо», радыёстанцыя РБМ-1 і інш.). Экспануюцца фатаграфіі 106 Герояў Сав. Саюза, атрымаўшых гэтае званне за вызваленне Шумілінскага р-на, а таксама Герояў Сав. Саюза землякоў П. А. *Акуцыёнка*, М. А. *Ласкунова*, Дз. М. *Мінчугова*, М. К. *Спірыдэнкі*. *Л. В. Голубева.*



Ф. Н. Шульгоўскі. М. К. Шут.



Экспазіцыя, прысвечаная Вялікай Айчыннай вайне, у Шумілінскім музеі народнай славы.

**ШУНЕЎКА,** вёска на тэр. Докшыцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 2 км ад в. Дабрунь Бягомльскага пасялковага Савета, каля шашы Бягомль — Докшыцы. Перад вайной у ёй жыло 77 чал. 22.5.1943, у час карнай аперацыі *«Котбус»*, фашысты загубілі 67 жыхароў, у т. л. 21 дзіцё, вёску (27 двароў) спалілі, маёмасць разрабавалі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1983 на яе месцы створаны мемар. комплекс *«Праклён фашызму»*. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь*.

**ШУПЕНЯ** Сцяпан Пятровіч (10.11. 1896, в. Нача Крупскага р-на — 10.8. 1979), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Баранавіцкай вобл. Чл. КПСС з 1926. З 1918 у Чырв. Арміі, удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Камуніст. ун-т нац. меншасцей Захаду імя Мархлеўскага (1935). У 1940—41 1-ы сакратар Шчучынскага РК КП(б)Б. З ліп. 1941 у тыле ворага. З 1942 упаўнаважаны ЦК КП(б)Б і БШПР па Шчучынскай зоне раёнаў; у крас.— снеж. 1943 кіраўнік *Шчучынскага падпольнага міжрайпартцэнтра*, у ліст. 1943 — ліп. 1944 сакратар Шчучынскага падп. РК КП(б)Б, адначасова з крас. 1943 камандзір *Шчучынскага партызанскага злучэння*; з 19.3.1943 да ліп. 1944 чл. *Баранавіцкага падпольнага абкома КП(б)Б*. З 1944 на парт. і сав. рабоце. Чл. ЦК КПБ у 1949—56, канд. у чл. ЦК КПБ у 1956—60. Дэп. ВС СССР у 1950—54, ВС БССР у 1947—59. Яго імя прысвоена сярэдняй школе ў в. Орля Шчучынскага р-на; на будынку школы мемар. дошка. Ганаровы грамадзянін г. Шчучын.

**ШУТ** Мікалай Канстанцінавіч (30.12. 1916, г. п. Плешчаніцы — 30.3.1977), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1943. Удзельнік баёў на р. Халхін-Гол у 1939. Скончыў Барысаглебскую ваен.-авіяц. школу лётчыкаў (1938), вышэйшую авіяшколу (1945). Ваяваў на Крымскім, Паўн.-Каўказскім, Варонежскім, Сцяпным, 1-м і 2-м Укр., Далёкаўсх. франтах. Удзельнік вызвалення Румыніі, Берлінскай і Пражскай аперацый 1945, разгрому Квантунскай арміі Японіі ў 1945. Лётчык маёр Ш. за вайну зрабіў 444 баявыя вылеты, правёў 120 паветр. баёў, збіў 22 самалёты праціўніка. Да 1949 у Сав. Арміі, потым на культурна-асветнай і адм. рабоце.

**ШУТАЎ** Сцяпан Фёдаравіч (30.1.1902, в. Дварэц Глускага р-на — 17.4.1963), двойчы Герой Сав. Саюза (студз., вер. 1944). Чл. КПСС з 1924. У Чырв. Арміі з 1924. Скончыў Аб'яднаную ваен. школу імя ВЦВК (1927), акадэмічныя курсы ўдасканалення камсаставу (1937, 1943). З ліп. 1941 на Зах., Волхаўскім, Варонежскім, 1-м і 2-м Укр. франтах: камандзір танк. батальёна, нам. камандзіра танк. брыгады, камандзір асобнага танк. палка, брыгады, нам. камандзіра механіз. корпуса. Брыгада пад камандаваннем палк. Ш. вызначылася ў 1943 пры фарсіраванні Дняпра і вызваленні Кіева, у 1944 у Яска-Кішынёўскай аперацыі. Пасля вайны на сав. і парт. рабоце. Дэп. ВС СССР у 1946—50, ВС БССР у 1951—55. У г. п. Глуск пастаўлены бюст Ш. Яго імем названы вуліцы ў Бабруйску, Глуску, Кіеве, у в. Вярэйцы Асіповіцкага і Сіманавічы Глускага р-наў, Гарадоцкая сярэдняя школа Глускага р-на. Аўтар кн. «Чырвоныя стрэлы» (1963).

**ШУХВАСТЫ,** вёска на тэр. Віцебскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 6 км на ПдУ ад в. Шчучына Мазалаўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жылі 154 чал. У жн. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 61 жыхара, вёску (32 двары) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1975 на месцы вёскі пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ШЧАДРЫНСКАЕ КАМСАМОЛЬСКА-МАЛАДЗЁЖНАЕ ПАДПОЛЛЕ.** Дзейнічала з жн. 1941 да ліст. 1943 на тэр. Жлобінскага р-на. Налічвала 15 падпольшчыкаў. Ядро групы складалі актывісты атрада самаабароны, створанага ў пач. вайны ў в. Шчадрын. Кіраўнікі: сакратар камсам. арг-цыі мясцовай школы Л. М. Жураўлёва і б. заг. нафтабазы Шчадрынскай МТС С. Дз. Трызна. У ліку першых у групу ўступілі камсамольцы А. М. Альшэўскі, М. Дз. Трызна, Ф. Дз. Харанека, настаўнік Ф. М. Марудзін і інш. У вер. 1942 падпольшчыкі ўстанавілі сувязь з прыбыўшай з-за лініі фронту групай І. А. *Крышнёва* і ў далейшым дзейнічалі пад кіраўніцтвам Жлобінскага падп. РК КП(б)Б і камандавання партыз. атрада «Смерць фашызму» (гл. ў арт. *Партызанская брыгада імя П. К. Панамарэнкі* Гомельскай вобл.). Падпольшчыкі перадавалі партызанам разведданыя, забяспечвалі іх зброяй, боепрыпасамі, харчамі. Марудзін уладкаваўся працаваць на млын і зімой 1942—43 разам з падпольшчыкам Л. Л. Длускім накіраваў партызанам некалькі падвод з мукой. У вер. 1942

Длускі атрымаў ад партызан міну і ўзарваў будынак ням. камендатуры ў Шчадрыне. Падпольшчыкі Альшэўскі, С. П. *Анішчанка* (загінуў у 1944 пры вызваленні Польшчы, пасмяротна прысвоена званне Героя Сав. Саюза), Харанека рэгулярна мініравалі прасёлачныя дарогі. У доме Длускага быў абсталяваны тайнік, устаноўлены радыёпрыёмнік і арганізавана слуханне перадач маскоўскага радыё. Тайнік са зброяй і боепрыпасамі быў абсталяваны ў доме падпольшчыцы У. В. Грыбоўскай у пас. Буда, пазней гэты дом стаў явачнай кватэрай для сустрэч кіраўнікоў груп з партызанамі.

У барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў загінулі Ф. М. Марудзін і С. Дз. Трызна. *М. Ф. Шумейка.*

**ШЧАМІЛАЎКА,** вёска на тэр. Шумілінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 5 км ад в. Роўнае Казьянскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыў 31 чал. У сак. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 23 жыхароў, вёску (6 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1969 на месцы спаленай вёскі пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь.*

**ШЧАРБАКОЎ** Апанас Цімафеевіч (10. 1.1903, в. Чарняты, Віцебскі р-н — 30.1.1967), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1931. З 1925 на культурна-асветнай і гасп. рабоце. У партызанах з студз. 1942: камісар атрада, з мая 1942 *партызанскай брыгады імя А. Ф. Данукалава*, у маі — жн. 1943 *партызанскай брыгады Лёзненскай*, адначасова ў ліп. 1942 — жн. 1943 1-ы сакратар Лёзненскага падп. РК КП(б)Б. З кастр. 1943 сакратар Лёзненскага РК КП(б)Б, у 1945—57 на гасп. рабоце.

**ШЧАРБАКОЎ** Раман Іванавіч (н. 24. 7.1910, с. Пячорскае Сызранскага р-на Куйбышаўскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай, Магілёўскай і Пінскай абл. Засл. работнік прамысловасці БССР (1980). Чл. КПСС з 1938. З 1929 на адм.-гасп. рабоце. З 1932 у Чырв. Арміі. У партызанах з жн. 1941: камандзір групы, камісар атрада, у лютым — маі 1943 *партызанскай брыгады 1-й Клічаўскай*, адначасова ў лют.— крас. 1943 камісар *Клічаўскага аператыўнага цэнтра*, у жн. 1943—ліп. 1944 — *партызанскага палка 208-га імя І. В. Сталіна*. З 1944 у ЦК КП(б)Б, Наркамаце Дзярж. кантролю БССР, з 1946 на адм.-гасп. рабоце ў Мінску.

**ШЧАРБАЦЭВІЧ** Вольга Фёдараўна (1902—26.10.1941), удзельніца *Мінскага партыйнага падполля.* Чл. КПСС з 1927. Напярэдадні вайны культработнік 3-й гар. бальніцы Мінска. У ліп. 1941 разам з камуністам К. І. Трусам стварыла і ўзначаліла падп. групу, якая арганізоўвала ўцёкі ваеннапалонных—камандзіраў і байцой Чырв. Арміі — са шпіталя, што знаходзіўся ў будынку політэхн. ін-та. У вер. 1941 арыштавана разам з сынам, павешана ням.-фаш. акупантамі.

**ШЧАРБІНА** Васіль Васілевіч (9.4. 1914, г. Горлаўка Данецкай вобл.— 23.9.1942), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1939. У Чырв. Арміі з 1934. Скончыў Адэскае пях. вучылішча (1938). З ліп. 1941 камандзір дыверсійнай групы ў раёне Лепеля, з сак. 1942 камандзір разведвальна-дыверсійнага атрада, які дзейнічаў у раёне Полацк — Маладзечна — Мінск. Атрад пад яго камандаваннем здабыў каштоўныя звесткі аб праціўніку, знішчыў 11 мастоў, 23 км сувязі, 23 аўтамашыны, самалёт, зрабіў 19 крушэнняў на чыгунцы. Маёр Ш. загінуў ад выбуху міны. Пахаваны ў Валожыне Мінскай вобл., дзе яго імем названа вуліца.

**ШЧУЧЫН,** горад, цэнтр раёна. За 68 км на У ад Гродна, 7 км ад чыг. ст. Ражанка на лініі Масты — Ліда, аўтадарогай звязаны з Ваўкавыскам, аўтамагістраллю Гродна — Ліда. У 1940—62 гар. пасёлак. У пач. вайны ў раёне Ш. цяжкія баі з праціўнікам вялі воіны 10-й арміі, у т. л. 13-га механіз. корпуса. 25.6.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў гар. пасёлку і раёне 2749 чал. На тэр. раёна дзейнічала раённая антыфаш. арг-цыя, *Шчучынскі падпольны міжрайпартцэнтр, Шчучынскі падпольны міжрайцэнтр ЛКСМБ*, падп. Шчучынскія райкомы КП(б)Б (ліст. 1943—15.7.1944) і ЛКСМБ (10.11.1943—15.7.1944), *Шчучынскае партызанскае злучэнне, партызанская група «Дружба»*; выдавалася падп. газ. *«Красное знамя»*. Вызвалены 13. 7.1944 воінамі 220-й стралк. дывізіі (палк. В. А. Палявік) 36-га корпуса 31-й арміі 3-га Бел. фронту, 139-й стралк. дывізіі (ген.-маёр І. К. Кірылаў), 23-й танк. брыгады (падпалк. К. І. Бойка), 5-й асобнай знішчальна-процітанк. брыгады (палк. Дз. К. Ушакоў), 1434-га самаходна-арт. палка (маёр М. Я. Самуілкін) 50-й арміі 2-га Бел. фронту ў ходзе Беластоцкай і Вільнюскай аперацый 1944. У Ш. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму, на іх пастаўлены помнікі; помнік землякам. *Т. І. Паваліхіна.*

**ШЧУЧЫНСКАЕ ПАРТЫЗАНСКАЕ ЗЛУЧЭННЕ.** Дзейнічала на акупіраванай тэр. Шчучынскага, Зэльвенскага, Васілішкаўскага, Казлоўшчынскага, Дзятлаўскага і Мастоўскага р-наў Баранавіцкай вобл. Камандзір — упаўнаважаны ЦК КП(б)Б і БШПР па Шчучынскай зоне, чл. Баранавіцкага падп. абкома КП(б)Б С. П. Шупеня, нам. камандзіра па разведцы Я. М. Пятроў, нач. ваен. аператыўнага аддзела М. Н. Бурцаў.

Створана ў крас. 1943 міжраённым парт. цэнтрам Шчучынскай зоны. Аб'ядноўвала партыз. брыгаду Ленінскую і асобна дзейныя атрады «Грознага» (пазней «Грозны»), «Стралкова» (пазней імя Суворава), І. В. Макарава (пазней імя Катоўскага) і Золава (пазней 1 Мая). У маі 1943 на базе атрадаў створана *партызанская брыгада Першамайская.* У чэрв. 1943 у злучэнне ўвайшоў партыз. атрад 54-ы (пазней імя Дзяржынскага), былі створаны *партызанская брыгада імя С. М. Кірава*, у ліст. *партызанская брыгада імя К. Я. Варашылава*, у снеж. *партызанская брыгада «Перамога»* і ўключана *партызанская брыгада імя Ленінскага камсамола.* У кастр. 1943 брыгада Першамайская перададзена *Стаўбцоўскаму партызанскаму злучэнню*, у снеж. брыгада імя Кірава — *Лідскаму партызанскаму злучэнню.* На час злучэння з Чырв. Арміяй (11—15.7.1944) налічвала каля 3,2 тыс. партызан. *А. Л. Манаенкаў.*

С. Ф. Шутаў. В. В. Шчарбіна.



**ШЧУЧЫНСКІ ПАДПОЛЬНЫ МІЖРАЙПАРТЦЭНТР.** Дзейнічаў з 18.4 да снеж. 1943 пад кіраўніцтвам *Баранавіцкага падпольнага абкома КП(б)Б.* У зону яго дзейнасці па кіраўніцтву парт. падполлем і партыз. рухам уваходзілі Васілішкаўскі, Дзятлаўскі, Жалудоцкі, Зэльвенскі, Казлоўшчынскі (да жн. 1943), Мастоўскі, Шчучынскі р-ны і г. Слонім (да жн. 1943). У крас. 1943 стварыў *Шчучынскае партызанскае злучэнне*, накіроўваў дзейнасць *Шчучынскага падпольнага міжрайцэнтра ЛКСМБ.* Склад міжрайпартцэнтра: кіраўнік С. П. *Шупеня*; памочнікі: М. Н. Бурцаў (па ваен.-аператыўнай рабоце), Я. М. Пятроў (па разведцы), Ф. В. Зямскоў (па камсам. рабоце). Базіраваўся ў *партызанскай брыгадзе Ленінскай.* З утварэннем падп. райкомаў КП(б)Б ператварыўся ў ваен.-аператыўны міжрайцэнтр у той жа зоне раёнаў і дзейнічаў да злучэння з Чырв. Арміяй. *М. І. Эпалетаў.*

**ШЧУЧЫНСКІ ПАДПОЛЬНЫ МІЖРАЙЦЭНТР ЛКСМБ.** Дзейнічаў з 20.5 да 19.12.1943 пад кіраўніцтвам *Шчучынскага падпольнага міжрайпартцэнтра* і *Баранавіцкага падпольнага абкома ЛКСМБ.* Кіраваў камсам. работай на тэр. Дзятлаўскага, Жалудоцкага, Зэльвенскага, Мастоўскага і Шчучынскага р-наў. Кіраўнік Ф. В. Зям-

скоў (адначасова з 10.11.1943 сакратар Шчучынскага падп. РК ЛКСМБ). Базіраваўся міжрайцэнтр у Шчучынскім р-не. Пасля выканання ўскладзеных на яго задач ліквідаваны рашэннем Баранавіцкага падп. абкома ЛКСМБ. Зямскоў пакінуты ўпаўнаважаным абкома па Шчучынскай зоне. *Р. М. Шавяла.*



М. Д. Шыла. М. Ф. Шындзікаў.

**ШЧЭ́ПІЦКАЕ КАМСАМО́ЛЬСКА-МАЛАДЗЁЖНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ.** Дзейнічала ў ліп. 1941 — студз. 1942 на тэр. Клецкага р-на. Складалася з 2 груп. Група на чале з камсамольцам С. П. Толкачам (створана ў ліп. 1941) аб'ядноўвала 17 чал.— камсамольцаў і моладзь, б. ваеннаслужачых Чырв. Арміі ў вёсках Шчэпічы, Яжавічы, Лукаўцы, Навадворкі, Кісялі. Група з в. Даматканавічы на чале з Я. Ф. Шаўчуком налічвала 13 чал. У кастр. 1941 групы аб'ядналіся ў арг-цыю, яе кіраўніком стаў Толкач. Падпольшчыкі збіралі зброю і боепрыпасы, вялі агітацыю сярод насельніцтва. Распаўсюдзілі больш за 30 лістовак са зводкамі Саўінфармбюро тыражом 1500 экз. Перадалі падпольшчыкам Капыльскага р-на боепрыпасы, пішучую машынку, лыжы. Праводзілі дыверсіі на чыгунцы Стоўбцы — Баранавічы, псавалі тэлефонна-тэлеграфную сувязь з Баранавічамі і Нясвіжам. 4.1.1942 гітлераўцамі арыштаваны і закатаваны падпольшчыкі В. І. і І. І. Дзяменнікі, І. А. Ліс, І. К. Малашэвіч, М.А. Моталь, І. Д. Новік, П. І. Палівада, А. П. Паляшчук, Дз. Ф. Пільневіч, А. Д. і Дз. Д. Роўбы, І. І. Скрыцкі, С. П. Толкач, І. М. Уласень, А. Ф. Шалковіч. Імем Толкача названа вуліца ў Клецку. *У. П. Сазановіч.*

**ШЫ́ЛА** Міхаіл Давыдавіч (н. 9.11. 1920, в. Оўзічы Іванаўскага р-на Брэсцкай вобл.), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1947. З ліп. 1941 кіраўнік падп. камсамольскай арг-цыі на радзіме, з 1943 партызан атрада імя Лазо брыгады імя Молатава. З 1944 на 1-м Бел., 3-м Прыбалт. франтах. Удзельнік вызвалення Беларусі, Прыбалтыкі, Польшчы, баёў у Германіі. Камандзір кулямётнага разліку ст. сяржант Ш. вызначыўся пад Варшавай. Адбіваючы з кулямёта контратакі, знішчыў больш за 250 гітлераўцаў. Да 1970 на адм.-гасп. рабоце.

**ШЫ́ЛАЎ** Іван Барысавіч (1914, в. Бабовічы Гомельскага р-на — 20.6. 1942), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля ў Гомелі. Чл. ВЛКСМ. Працаваў на Гомельскім дрэваапрацоўчым камбінаце. З 1934 у Чырв. Арміі. Скончыў ваен. вучылішча (1938), вучыўся на завочным аддзяленні Ваен. акадэміі імя Фрунзе. У час Вял. Айч. вайны ст. лейтэнант, пам. нач. штаба палка на Зах. фронце. У жн. 1941 трапіў у акружэнне, прабраўся ў Гомель, увайшоў у падп. групу Ц. С. Барадзіна, з ліст. 1941 чл. апаратыўнага падп. цэнтра (гл. ў арт. *Гомельскае партыйнае падполле*). 4.11.1941, апрануўшы ням. форму, учыніў узрыў у рэстаране для афіцэраў. Да вясны 1942 стварыў падп. групу, якая рыхтавала дыверсію на электрастанцыі. 8.5.1942 схоплены гітлераўцамі і пасля катаванняў расстраляны. Яго імем названа вуліца ў Гомелі.

**ШЫМАНО́ВІЧ** Віктар Іосіфавіч (н. 21. 8.1915, Мінск), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсам.-маладзёжнага падполля і партыз. руху ў Вілейскай вобл. Чл. КПСС з 1940. Скончыў Мінскі пед. ін-т (1940). З 1938 у апараце ЦК КП(б)Б. У 1942—43 нач. аддзела БШПР. З кастр. 1943 да ліп. 1944 сакратар *Вілейскага падпольнага абкома ЛКСМБ*, адначасова ў крас.— ліп. 1944 рэдактар падп. газ. *«Молодёжная правда»*. З ліп. 1944 сакратар Вілейскага абкома ЛКСМБ, у апараце ЦК КП(б)Б, на сав. і гасп. рабоце.

**ШЫМА́НСКІ** Сцяпан Іванавіч (н. 3.3. 1912, в. Варонічы Пухавіцкага р-на), ген.-лейт. авіяцыі (1962). Чл. КПСС з 1932. У Чырв. Арміі з 1932. Скончыў ваен. акадэміі імя Фрунзе (1939), Генштаба (1950). Удзельнік сав.-фінл. вайны 1939—40. З 1941 на Паўн., Карэльскім і 3-м Бел. франтах: нач. аддзялення штаба авіядывізіі, нач. штаба авіяпалка, нам. нач. аператыўнага аддзела паветр. арміі, нач. штаба авіядывізіі. Удзельнік абароны Сав. Запаляр'я, баёў ва Усх. Прусіі. Пасля вайны ў войсках ВПС. У 1956—72 выкладчык у Ваен. акадэміі Генштаба.

**ШЫМКО́** Уладзімір Сцяпанавіч (н. 21. 2.1905, р. п. Касцюкоўка Гомельскага р-на), ген.-лейт. авіяцыі (1955). Чл. КПСС з 1926. Скончыў арт. школу (1927), Ваен. акадэмію Генштаба (1949). У Чырв. Арміі з 1923. У Айч. вайну ваенком і нам. камандуючага па палітчастцы ВПС Далёкаўсх. фронту. Удзельнік разгрому Квантунскай арміі Японіі, чл. ваен. савета арміі. У 1945—56 на парт.-паліт. рабоце ў войсках ППА і цэнтр. апараце ВПС.

**ШЫНДЗІКА́Ў** Мікалай Фаміч (30.10. 1925, в. Лебяжынскае, Горацкі р-н — 28.2.1945), Герой Сав. Саюза (1945). Працаваў трактарыстам у с. Тэнгулы Марыінскага р-на Кемераўскай вобл. Скончыў школу механікаў-вадзіцеляў (1944). З 1944 на 1-м Бел. фронце. Механік-вадзіцель танка ст. сяржант Ш. вызначыўся ў Вісла-Одэрскай аперацыі. У студз. 1945 з баямі прайшоў 500 км, удзельнічаў у вызваленні польскіх гарадоў Сахачаў, Інаўроцлаў, Любен-Куяўскі; экіпаж танка ў наступальных баях знішчыў 41 аўтамашыну, 17 павозак, 4 самалёты на аэрадромах, 56 салдат і афіцэраў ворага.

**ШЫРЫН** Фёдар Ігнатавіч (22.5.1907, в. Сухая Міля, Салігорскі р-н — 26.7. 1980), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Пінскай вобл. Чл. КПСС з 1932. З 1933 на гасп., сав. і парт. рабоце ў Старобінскім р-не. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. У партызанах з чэрв. 1941: камандзір групы, нам. камандзіра, з сак. 1943 камандзір атрада, у ліст. 1943 — ліп. 1944 — *партызанскай брыгады імя С. М. Будзённага*, адначасова чл. Ленінскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—60 на парт., сав. і адм.-гасп. рабоце.

**ШЫХА́Ў** Аляксандр Мікітавіч (н. 14.8. 1914, в. Пясчанка Орычаўскага р-на Кіраўскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху на Беларусі. Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1944. На фронце з 1941; удзельнік абароны Масквы. У маі — вер. 1943 камандзір спец. атрада «Пачын», які дзейнічаў у Гомельскай вобл., у студз.— ліп. 1944 камандзір *партызанскай групы «Волаты»*. У 1945—70 у органах КДБ, падпалкоўнік.

**ШЫ́ЦІКІ,** вёска на тэр. Віцебскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 5 км на Пд ад в. Дразды Запольскага сельсавета, у лесе. Перад вайной у ёй жыло 145 чал. У маі 1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 84 жыхароў, вёску (38 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1965 на месцы вёскі пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ШЫШ** Мікалай Цімафеевіч (1908, в. Худлін Кобрынскага р-на — 26.6. 1942), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Пінскай вобл. Чл. КПЗБ. З 1939 у органах НКУС. У партызанах з жн. 1941: камандзір групы, з крас. 1942 атрада (гл. *Партызанская брыгада імя В. М. Молатава*). У баі на Дняпроўска-Бугскім канале ўзняў партызан у атаку, сам загінуў. Яго імем названы атрад у брыгадзе імя Молатава, вуліца ў г. п. Антопаль, на радзіме пастаўлены помнік.

**ШЭ́ДАЎ** Фёдар Трафімавіч (9.1.1905, в. Вял. Пушча Полацкага р-на — 10.4.1979), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1930. З 1921 рабочы, з 1930 на прафс., сав., парт. і журналісцкай рабоце.

Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. З ліп. 1941 на фронце. З снеж. 1941 чл. падп. групы ў Полацкім р-не. З мая 1942 у партызанах, з кастр. камісар, з студз. 1943 камандзір атрада, у крас.— ліст. 1943 камісар *партызанскай брыгады 3-й Беларускай*, адначасова чл. Полацкага падп. РК КП(б)Б. У 1944—62 на парт., сав. і гасп. рабоце.

**ШЭЛЕПЕНЬ** Аляксандр Кірылавіч (14.10.1918, в. Забор'е Расонскага р-на — 12.6.1964), Герой Сав. Саюза (1946). Чл. КПСС з 1943. Скончыў курсы мал. лейтэнантаў (1942), курсы ўдасканалення афіцэрскага саставу (1945). З 1941 на Зах., Волхаўскім, Ленінградскім і 1-м Бел. франтах. Удзельнік абароны Масквы. Камандзір арт. батарэі ст. лейтэнант Ш. вызначыўся ў баях за Берлін. 22—28.4.1945 батарэя пад яго камандаваннем у вулічных баях разбурыла 26 аб'ектаў з агнявымі кропкамі праціўніка, 4 барыкады, знішчыла каля 250 гітлераўцаў. Пасля вайны на прафс. рабоце.

**ШЭНДЗЕЛЕЎ** Уладзімір Кузьміч (н. 5.8.1907, в. Вял. Сітна Полацкага р-на), адзін з кіраўнікоў партызан. руху ў Віцебскай і Вілейскай абл. Чл. КПСС з 1931. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КПБ (1955). З 1930 на сав. і адм.-гасп. рабоце ў Полацкім р-не. З ліп. 1941 у партызанах у Калінінскай вобл., з мая 1942 на Беларусі, з жн. 1942 камісар атрада, у жн. 1943 — студз. 1944 камісар *партызанскай брыгады 4-й Беларускай*, адначасова чл. Полацкага, Дзісенскага падп. РК КП(б)Б. З 1944 старшыня Полацкага, Ветрынскага райвыканкомаў, з 1960 на адм.-гасп. і сав. рабоце.

**ШЭСЦЬДЗЕСЯТ ПЕРШАЯ АРМІЯ.** Сфарміравана ў ліст. 1941 у Прыволжскай ваен. акрузе ў складзе 7 стралк., 2 кав. дывізій і шэрагу арт. і інш. часцей. Баявыя дзеянні вяла з 6.12.1941 на Паўд.-Зах. і Бранскім франтах, летам 1943 удзельнічала ў Арлоўскай аперацыі. З 7.9.1943 у складзе Цэнтр., з 20.10.1943 — Бел. франтоў армія ўдзельнічала ў *Чарнігаўска-Прыпяцкай аперацыі 1943*, *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943*, *Калінкавіцка-Мазырскай аперацыі 1944*, у ходзе якой ва ўзаемадзеянні з 65-й арміяй вызваліла г. Калінкавічы (14.1.1944), ва ўзаемадзеянні з 7-м гвардз. кав. корпусам — г. Мазыр (14.1.1944). У ходзе гэтых аперацый армія прайшла з баямі каля 250 км. Яе 55-я і 415-я стралк. дывізіі вызначыліся ў баях за вызваленне цэнтра Палескай вобл. Мазыра, ім былі нададзены ганаровыя найменні «Мазырскіх» (15.1.1944). Да канца студз. армія выйшла да нізоўяў р. Пціч і на Пд ад яе, пасля ва ўзаемадзеянні з 13-й арміяй 1-га Укр. фронту часткай сіл паспяхова наступала ўздоўж правага берага р. Прыпяць на Столін. З 17.2.1944 армія ўваходзіла ў склад 2-га Бел., з 5.4.1944 — Бел., з 16.4.1944 — 1-га Бел. франтоў. У *Беларускай аперацыі 1944* войскі арміі наступалі ўздоўж Прыпяці ва ўзаемадзеянні з партыз. атрадамі і *Дняпроўскай ваеннай флатыліяй.* У час *Мінскай аперацыі 1944* 55-я стралк. дывізія арміі 29.6.1944 вызваліла г. Петрыкаў. У ходзе наступлення на баранавіцка-брэсцкім напрамку 337-я стралк. дывізія вызваліла г. Столін (7.7.1944), часці 23-й і 55-й стралк. дывізій — г. Лунінец (10.7.1944, пры падтрымцы караблёў Дняпроўскай ваен. флатыліі). У баях за Лунінец вызначыліся 89-ы, 107-ы, 111-ы і 117-ы стралк. палкі, удастоеныя ганаровых найменняў «Лунінецкіх» (23.7.1944), 23-я і 55-я стралк. дывізіі ўзнаг. ордэнамі Чырв. Сцяга. Пры вызваленні г. Пінск (14.7.1944) вызначыліся 12-я гвардз. стралк. дывізія і 547-ы армейскі мінамётны полк, ім нададзены ганаровыя найменні «Пінскіх», 397-я і 415-я стралк. дывізіі ўзнаг. ордэнамі Чырв. Сцяга. У ходзе *Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944* часцямі 12-й гвардз. і 212-й стралк. дывізій вызвалены г. Кобрын (20.7.1944). Шэраг стралк. палкоў гэтых дывізій, а таксама 60-ы гвардз. карпусны арт. полк, 533-і знішчальны процітанк. арт. полк і 1282-і зенітны арт. полк удастоены ганаровых найменняў «Кобрынскіх», абедзве дывізіі ўзнаг. ордэнамі Чырв. Сцяга. Пры садзеянні часткі сіл 28-й і 70-й армій 61-я армія вызваліла г. Брэст (28.7.1944). Пры гэтым вызначыліся 9-ы гвардз. стралк. корпус, якому нададзена найменне «Брэсцкага», 60-ы гвардз. карпусны, 533-і знішчальны процітанк. і 1282-і зенітны арт. палкі ўзнаг. ордэнамі Чырв. Сцяга, 212-я стралк. дывізія ўзнаг. ордэнам Суворава II ступені. У далейшым армія ў складзе 3-га Прыбалт. фронту ўдзельнічала ў Рыжскай аперацыі, у складзе 1-га Бел. фронту — у Варшаўска-Познанскай, Усх.-Памеранскай і Берлінскай аперацыях. За мужнасць, гераізм і адвагу, праяўленыя ў баях з ням.-фаш. захопнікамі, дзесяткі тысяч воінаў арміі ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР, 316 з іх прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Многія яе злучэнні і часці ўзнаг. ордэнамі і ўдастоены ганаровых найменняў.

Камандуючыя: ген.-палк. Ф. І. Кузняцоў (ліст. 1941), ген.-лейт. М. М. Папоў (ліст. 1941 — чэрв. 1942), ген.-лейт., з 26.7.1944 ген.-палк. П. А. Бялоў (чэрв. 1942 — да канца вайны). *М. І. Камінскі.*

**ШЭСЦЬДЗЕСЯТ ПЯТАЯ АРМІЯ.** Створана ў кастр. 1942 на Данскім фронце ў складзе 6 стралк. дывізій, танк. брыгады, арт. і інш. часцей. Удзельнічала ў Сталінградскай бітве і ліквідацыі абкружанай варожай групоўкі. З 15.2.1943 у складзе Цэнтр. фронту ўдзельнічала ў *Курскай бітве 1943* і *Чарнігаўска-Прыпяцкай аперацыі 1943*, у ходзе якой фарсіравала Дзясну і Сож. У кастр. 1943 ва ўзаемадзеянні з 61-й арміяй фарсіравала Дняпро і захапіла плацдарм на яго правым беразе ў раёне Лоева. З 20.10.1943 армія ў складзе Бел. фронту. У перыяд *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943* войскі 65-й арміі вызвалілі шэраг населеных пунктаў на тэр. Беларусі, у т. л. ва ўзаемадзеянні з 1-м гвардз. танк. корпусам і 48-й арміяй г. Рэчыца (18.11.1943).



А. М. Шыхаў. А. К. Шэлепень.

У баях за горад вызначыліся 37-я гвардз. стралк. дывізія, 1-я гвардз. мотастралк. брыгада, 15-я і 16-я гвардз. танк. брыгады і 543-і знішчальны процітанк. арт. полк, якім нададзены ганаровыя найменні «Рэчыцкіх» (18.11.1943). Да канца ліст. 1943 войскі арміі выйшлі на рубеж р. Бярэзіна — на Пд ад г. п. Парычы — в. Гамза, дзе перайшлі да абароны. У студз.— лют. 1944 армія ўдзельнічала ў *Калінкавіцка-Мазырскай аперацыі 1944.* Сумесна з 61-й арміяй вызваліла буйны чыг. вузел Калінкавічы (14.1.1944), за што яе 1-я гвардз. мотастралк. і 5-я гвардз. мінамётная брыгады ўдастоены ганаровых найменняў «Калінкавіцкіх» (15.1.1944). У ходзе гэтай аперацыі войскі арміі ва ўзаемадзеянні з 61-й арміяй нанеслі паражэнне праціўніку ў раёне г. п. Азарычы і палепшылі сваё аператыўнае становішча. Летам 1944 армія ў складзе 1-га Бел. фронту ўдзельнічала ў *Беларускай аперацыі 1944* па разгрому ням.-фаш. войск на Беларусі, у Літве і Усх. Польшчы. У час *Бабруйскай аперацыі 1944* яе злучэнні сумесна з 48-й арміяй і інш. сіламі фронту акружылі і разграмілі 40-тысячную групоўку 9-й ням.-фаш. арміі і вызвалілі гарады Асіповічы (28 чэрв.) і Бабруйск (29 чэрв.). У баях за Бабруйск вызначыліся 115-я асобная стралк. брыгада, 922-і самаходны арт. полк і 311-ы гвардз. мінамётны полк рэактыўнай артылерыі, ім нададзены ганаровыя найменні «Бабруйскіх» (5.7.1944). Развіваючы наступленне на баранавіцкім напрамку ва ўзаемадзеянні з 48-й і 28-й арміямі 65-я армія разграміла процістаячыя войскі праціўніка і

вызваліла г. Баранавічы (8 ліп.). Пры гэтым вызначыліся 44-я гвардз. стралк. дывізія, 251-ы асобны танк. полк, 157-я армейская пушачная арт. брыгада і 43-і гвардз. мінамётны полк рэактыўнай артылерыі, якія былі ўдастоены ганаровых найменняў «Баранавіцкіх» (27.7.1944). Пасля часці арміі ва ўзаемадзеянні з 1-м гвардз. танк. корпусам і франтавой конна-механіз. групай ген. І. А. *Пліева* пры падтрымцы штурмавой авіяцыі з ходу фарсіравалі Шчару на ўчастку працягласцю 60 км і пасля ўпартых баёў вызвалілі Слонім (10.7.1944) — буйны вузел камунікацый і моцны апорны пункт немцаў. Пры гэтым вызначыліся 925-ы лёгкі самаходны арт. полк, удастоены ганаровага наймення «Слонімскага» (27.7.1944). У *Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944* армія ва ўзаемадзеянні з 48-й і 28-й арміямі нанесла цяжкае паражэнне часткі сіл 2-й ням. арміі на Пн ад Брэста, у канцы ліп. выйшла на р. Зах. Буг, у пачатку вер. 1944 — на р. Нараў, дзе захапіла плацдарм. З 19.11.1944 армія ў складзе 2-га Бел. фронту ўдзельнічала ў Млаўска-Эльбінгскай, Усх.-Памеранскай і Берлінскай аперацыях, фарсіравала Одэр і выйшла на ўзбярэжжа Балтыйскага мора на Пд ад г. Росток. За праяўленыя ў баях з ням.-фаш. захопнікамі мужнасць, гераізм і ваен. майстэрства дзесяткі тысяч воінаў арміі ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР, 323 з іх прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Многія яе злучэнні і часці ўзнаг. ордэнамі і ўдастоены ганаровых найменняў.

Камандуючы — ген.-лейт., з 29.8.1944 ген.-палк. П. І. *Батаў* (кастр. 1942 — да канца вайны). *М. І. Камінскі.*

**ШЭСЦЬДЗЕСЯ́Т ТРЭ́ЦЯЯ А́РМІЯ.** Створана 10.7.1942 шляхам перайменавання 5-й рэзервовай арміі ў складзе 6 стралк. дывізій і шэрагу асобных часцей. У складзе Сталінградскага, Данскога і Паўд.-Зах. франтоў удзельнічала ў Сталінградскай бітве. 4.11.1942 пераўтворана ў 1-ю гвардз. армію. Зноў сфарміравана ў сак.— крас. 1943 на базе 2-й рэзервовай арміі ў складзе 6 стралк. дывізій і шэрагу арт., інж. часцей. У складзе Бранскага фронту ўдзельнічала ў Арлоўскай аперацыі 1943 і вызваленні Арла. У перыяд *Бранскай аперацыі 1943* войскі арміі фарсіравалі Дзясну, вызвалілі гарады Трубчэўск, Старадуб і пры ўзаемадзеянні з 1-м танк. корпусам і 48-й арміяй—Навазыбкаў. У пачатку кастр. 1943 выйшла на р. Сож і ўступіла на тэр. Беларусі. У перыяд *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943* армія ў складзе Цэнтр., з 20.10.1943 Бел. франтоў вяла наступленне ў напрамку на Пн ад Гомеля — Жлобіна. Прайшла з баямі каля 130 км і вызваліла частку ўсх. раёнаў Беларусі. Да лют. 1944 вяла баі мясцовага значэння з мэтай паляпшэння сваіх пазіцый. У сярэдзіне лют. 1944 расфарміравана. За мужнасць і гераізм, праяўленыя ў баях, тысячы воінаў арміі ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР, прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

Камандуючыя: ген.-лейт. В. І. *Кузняцоў* (ліп.—ліст. 1942), ген.-лейт. В. І. Марозаў (сак.—май 1943), ген.-лейт. У. Я. *Калпакчы* (май 1943 — люты 1944).



**ЭВАКУА́ЦЫЯ.** Перабазіраванне насельніцтва, абсталявання прадпрыемстваў і маёмасці з месцаў, якім пагражала акупацыя, было задачай велізарнага дзяржаўнага значэння. Выкліканая вельмі неспрыяльным франтавым становішчам пачатковага перыяду вайны, Э. з'явілася надзвычайным звяном перабудовы нар. гаспадаркі на ваен. лад, разгортвання ў глыбокім тыле гал. ваен.-прамысловай базы краіны. 24.6.1941 рашэннем Палітбюро ЦК ВКП(б) і СНК СССР утвораны Савет па эвакуацыі, які вызначаў тэрміны, парадак Э. прадпрыемстваў, матэрыяльных каштоўнасцей, пункты іх размяшчэння. Ажыццяўлялася ў залежнасці ад ваен. становішча на месцах і праходзіла адначасова на некалькіх напрамках: Э. грамадзянскага насельніцтва, матэрыяльных рэсурсаў прамысловасці, сельскай гаспадаркі, транспарту, культ. каштоўнасцей.

Э. на Беларусі праходзіла ў складаных абставінах. Да канца першага тыдня баявых дзеянняў зах. і цэнтр. вобласці Беларусі былі акупіраваны, што практычна сарвала магчымасць масавай Э. прадукцыйных сіл з гэтых раёнаў. 25.6.1941 арганізавана Цэнтр. эвакуацыйная камісія пры СНК БССР на чале са старшынёй СНК І. С. Былінскім (нам. старшыні — І. А. Захараў, І. А. Крупеня і інш.). Камісія ўзначаліла работу ў Магілёўскай, Віцебскай, Гомельскай і Палескай абл., якія таксама аказаліся неўзабаве пад пагрозай акупацыі. У ліп. 1941 бюро ЦК КП(б)Б прыняло дадатковыя меры па ўзмацненню тэмпаў Э. На дырэктараў прадпрыемстваў і сакратароў партбюро ўскладаўся абавязак не толькі ажыццяўляць пагрузку і адпраўку, дэмантаж эшалонаў з абсталяваннем, але і забяспечыць рух іх да станцыі прызначэння. З ліку грамадзянскага насельніцтва ў першую чаргу эвакуацыі падлягалі дзеці. На У у чэрв.— жн. вывезена больш як 190 дзіцячых устаноў (каля 16,5 тыс. дзяцей). У Мінску, Оршы, Полацку, Віцебску, Магілёве, Крычаве, Гомелі, Лоеве і інш. абласных і раённых цэнтрах былі арганізаваны 24 эвакапункты, дзе насельніцтва атрымлівала дапамогу харчаваннем, адзеннем, медыкаментамі, транспартам. На гэтыя патрэбы СНК БССР выдзеліў 3 млн. руб. У кожны эвакапункт накіроўваліся ўпаўнаважаныя ЦК КП(б)Б і ўрада рэспублікі. Усяго ва ўсх. раёны краіны — у Паволжа, на Урал, у Зах. Сібір і інш.— выехала каля 1,5 млн. працоўных Беларусі. Парт. і сав. органы, грамадзянскае насельніцтва, працоўныя калектывы ў сав. тыле аказалі вял. дапамогу, праявілі клопаты па арганізацыі жылля, працаўладкаванню, забеспячэнню прадметамі першай неабходнасці. З велізарным напружаннем сіл ішла Э. прамысловага абсталявання і кадраў. Парадак яе правядзення намячаўся пастановамі ДКА, СНК СССР і Савета па эвакуацыі, якія вызначалі тэрміны, месцы размяшчэння, арганізацыю аховы грузаў на шляху руху і г. д. Вываз прамысловага абсталявання прадугледжваўся комплексна з мэтай хуткага ўводу яго ў дзеянне на новых базах. Дэмантаж і пагрузка ў эшалоны, адпраўка грузаў у далёкі рэйс ажыццяўляліся ў складаных абставінах, пад абстрэлам варожых гармат, пры жорсткіх варожых атаках. Тым не менш пагрузка матэрыяльна-тэхн. каштоўнасцей, абсталявання, інструмента, сыравіны, незавершанай прадукцыі, каляровых і чорных металаў ішла дзень і ноч. Калектывы магілёўскіх з-даў авіяц. маторабудавання і трубаліцейнага, віцебскіх станкабудаўнічых з-даў імя Камінтэрна, імя Кірава, іголкавай і акулярнай ф-к, трыкатажных ф-к імя КІМ, імя Клары Цэткін, швейнай «Сцяг індустрыялізацыі», гомельскіх з-даў «Гомсельмаш», паравозавагонарамонтнага, металаапрацоўчага «Рухавік рэвалюцыі», Крычаўскага цэментнага, Быхаўскага ацэтонавага і многіх інш. цаной гераічных намаганняў адправілі ў сав. тыл каля 17 тыс. адзінак каштоўнага тэхналагічнага абсталявання, дзесяткі вагонаў з матэрыяльна-тэхн. грузамі. Фонд асн. вытворчых маўтнасцей, выратаваных ад ворага, ацэньваўся ў 478 098 тыс. руб. Усяго ва ўсх. раёны краіны адпраўлены абсталяванне і кадры 124 буйных прамысловых прадпрыемстваў саюзнага і рэсп. падпарадкавання і 14 прамысловых арцелей. Асноўнымі раёнамі размяшчэння бел. прамысловасці сталі Паволжа (47 прадпрыемстваў), Урал (35 прадпрыемстваў), сярэдняя паласа РСФСР (28 прадпрыемстваў), Зах. Сібір (8 прадпрыемстваў) і інш. Большая частка з перабазіраваных з-даў і ф-к Беларусі ўжо восенню 1941 выпускала абаронную прадукцыю для фронту. Э. прамысловасці з'явілася часткай велізарнай работы па выратаванню прадукцыйных сіл усх. абласцей рэспублікі, якую бел.

народ ажыццяўляў у першыя тыдні вайны. Не меншых затрат працы і намаганняў патрабавала Э. матэрыяльных рэсурсаў сельскай гаспадаркі, машыннага парка МТС, перагон грамадскай жывёлы. Бюро абкомаў і райкомаў партыі, выканкомы мясцовых Саветаў распрацоўвалі маршруты, вылучалі людзей, транспартныя сродкі. На працягу ліп.— жн. 1941 у сав. тыл эвакуіравана 36 МТС з поўным абсталяваннем (каля 5 тыс. трактароў, больш за 600 камбайнаў, малацілак, станкоў і інш. тэхнікі), каля 700 тыс. галоў жывёлы, якая накіроўвалася ў Смаленскую, Калінінскую, Курскую, Арлоўскую вобл., тысячы тон гаручага, змазачных матэрыялаў, 93,6 тыс. т збожжа. Тое, што не паспявалі вывезці, раздавалі мясцовому насельніцтву, пакідалі воінскім часцям Чырв. Арміі, якія вялі жорсткія баі. Выключную ролю ў Э. летам 1941 адыгралі чыгункі рэспублікі. Па меры адыходу часцей Чырв. Арміі ў глыб тэрыторыі калектывы Брэст-Літоўскай, Зах. і Бел. чыгунак гналі ў глыб краіны рухомы састаў, матэрыяльныя каштоўнасці і маёмасць чыг. вузлоў Баранавічы, Барысаў, Орша, Полацк, Віцебск, Гомель і інш. Практычна асн. частка гаспадаркі і кадравы састаў трох бел. магістралей былі своечасова эвакуіраваны на У. Каля 5 тыс. работнікаў чыг. транспарту Беларусі працавалі ў гады вайны на 40 тылавых і прыфрантавых дарогах. Удалося вывезці 161 аддзяленне Дзяржбанка СССР, 116 раённых і цэнтр. ашчадных кас, больш за 568 млн. руб. грашовага фонду, матэрыяльныя і культурныя каштоўнасці 60 навукова-даследчых ін-таў, 20 вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў, 6 тэатраў і інш. Усе выдаткі, звязаныя з перавозкай эвакагрузаў і аказаннем матэрыяльнай дапамогі насельніцтву, прадпрыемствам і ўстановам, ішлі за кошт дзярж. бюджэту. У 2-м паўгоддзі 1941 гэтыя сумы па БССР склалі каля 392,1 млн. рублёў. *Г. І. Аляхновіч.*

**ЭЙДЗІНАЎ** Рыгор Барысавіч (10.9. 1908, Баку — 2.5.1977), парт. і дзярж. дзеяч БССР, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызан. руху на Беларусі. Чл. КПСС з 1927. Скончыў ВПШ пры ЦК КПСС (1958). З 1935 на парт. рабоце ў Беларусі. У 1940—41 3-і сакратар, сакратар ЦК КП(б)Б. У вайну адначасова кіраўнік *Паўночна-Заходняй аператыўнай групы ЦК КП(б)Б*, нам. нач. *Беларускага штаба партызанскага руху*. З 1944 нам. старшыні СНК БССР, старшыня Дзяржплана БССР. З 1948 у СМ РСФСР, з 1967 нам. старшыні Дзярж. к-та СМ РСФСР па выкарыстанню працоўных рэсурсаў. Чл. ЦК КП(б)Б у 1940—49. Чл. Бюро ЦК КП(б)Б у 1940—47. Дэп. ВС СССР у 1946—50, ВС БССР у 1938—51.

**ЭРДМАН** Адольф Браніслававіч (13.8. 1908, б. хутар Малахава, Шумілінскі р-н — 29.3.1973), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1931. З 1929 на гасп. і сав. рабоце. У жн. 1941 накіраваны ЦК КП(б)Б у тыл ворага, з сак. 1942 камандзір групы, з чэрв. 1942 камісар атрада, у сак. 1943 — ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады імя С. М. Кароткіна*, адначасова чл. Сіроцінскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—62 на сав. і адм.-гасп. рабоце.



**ЮБКІН** Васіль Паўлавіч (1.1.1920, в. Апалонаўка Саланянскага р-на Днепрапятроўскай вобл.— 3.2.1968), Герой Сав. Саюза (1945). Канд. гіст. навук (1962). Чл. КПСС з 1945. Беларус. Скончыў Чырчыкскае танк. вучылішча (1944), Днепрапятроўскі ун-т (1951). З 1941 на Паўд.-Зах., Паўн.-Каўказскім, 1-м Бел. франтах. Удзельнік абарончых баёў пад Роўна, Жытомірам, Кіевам, Харкавам, Растовам-на-Доне, вызвалення Беларусі, Польшчы. Камандзір танк. роты мал. лейтэнант Ю. вызначыўся ў вер. 1944 на тэр. Польшчы. На чале роты пераправіўся цераз р. Нараў, захапіў і ўтрымліваў плацдарм да падыходу падмацавання. Пасля вайны на выкладчыцкай рабоце.

**ЮДЗІН** Вячаслаў Васілевіч (26.4. 1906, г. Ліда — 28.3.1978), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Гомельскай вобл. Чл. КПСС з 1930. Скончыў ВПШ пры ЦК ВКП(б) (1948). З 1940 заг. аддзела, сакратар Навабеліцкага РК КП(б)Б г. Гомеля. У партызанах з жн. 1941: камандзір узвода, з вер. 1942 нач. штаба атрада, у снеж. 1942 — сак. 1943 чл. Гомельскага падп. гаркома КП(б)Б, з сак. 1943 упаўнаважаны Гомельскага падп. абкома КП(б)Б, адначасова ў сак.— ліст. 1943 сакратар Уваравіцкага падп. РК КП(б)Б, у вер.— ліст. 1943 камісар *партызанскай брыгады імя М. А. Шчорса*. Са снеж. 1943 нам. заг. аддзела Гомельскага абкома КП(б)Б. З 1948 у ЦК КП(б)Б, з 1952 2-і сакратар, сакратар Маладзечанскага абкома КПБ. У 1960—68 нач. упраўлення Мін-ва будаўніцтва БССР. Канд. у чл. ЦК КПБ у 1952—54.

**ЮКША** Іван Іосіфавіч (н. 12.4.1918, Вёска № 2 Усвяцкага р-на Пскоўскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Вілейскай вобл. Чл. КПСС з 1943. Скончыў Вяліжскае пед. вучылішча (1941), Мінскі пед. ін-т (1966). З ліп. 1941 удзельнік партыз. руху ў Смаленскай вобл. З лют. 1942 у органах міліцыі ва Усвяцкім р-не Смаленскай вобл. З кастр. 1942 на Беларусі: камісар партыз. атрада, у вер. 1943 — ліп. 1944 камісар, адначасова ў чэрв.— ліп. 1944 в. а. камандзіра *партызанскай брыгады «Кастрычнік»*, чл. Пліскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—78 на парт. і пед. рабоце.

**ЮРАЎСКІЯ**, вёска на тэр. Іўеўскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 3 км на У ад в. Белы Бераг Бакштаўскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 25 чал. 6.9.1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 28 жыхароў, у т. л. 8 дзяцей, вёску (5 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе *Хатынь*.

**ЮРАЦІШКІ**, гар. пасёлак у Іўеўскім р-не. За 16 км на ПнУ ад г. п. Іўе, за 4 км ад чыг. ст. Юрацішкі на лініі Ліда — Маладзечна, аўтадарогамі звязаны з Іўем, Валожынам, Ашмянамі. У 1940—44 мястэчка, цэнтр Юрацішкаўскага р-на. 24.6.1941 у раёне Ю. сканцэнтравалася 24-я Жалезная Самара-Ульянаўская стралк. дывізія (палк. К. М. Галіцкі) 3-й арміі, дзе ўвайшла ў склад 21-га стралк. корпуса 13-й арміі. Дывізія атрымала загад не дапусціць прарыву войск праціўніка, які наступаў на мінскім напрамку, і была высунута на рубеж на Пд ад в. Трабы — Суботнікі (12—14 км на Пн ад Ю.), заняла абарону на ўсх. берагах рэк Клева і Гаўя; мінnымі палямі і артылерыяй былі прыкрыты асн. танканебяспечныя напрамкі. З 25 да 29 чэрв. воіны дывізіі (7-ы, 274-ы, 168-ы стралк. палкі, 160-ы, 246-ы, 264-ы арт. палкі, сапёрны, танк. і сувязі батальёны, зенітны і знішчальны процітанк. дывізіёны і інш. падраздзяленні) у бязлітасных баях з намнога большымі сіламі праціўніка ўтрымлівалі занятыя пазіцыі. Асабліва ўпартыя баі ішлі каля вёсак Суботнікі, Трабы, Сурвілішкі. Сав. воіны падбілі больш за 100 танкаў, 8 самалётаў і інш. варожай тэхнікі, знішчылі некалькі тысяч салдат і афіцэраў ням. 19-й танк. дывізіі 57-га маторызаванага корпуса. Акупіраваны 29.6. 1941 ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў Ю. і раёне 1415 чал. У Ю. і раёне дзейнічалі Юрацішкаўскія падп. РК КП(б)Б (6.7.1943—7.7.1944) і ЛКСМБ (снеж. 1942—7.7.1944), партыз. брыгады «Уперад», імя Аляксандра Неўскага, «Няўлоўныя» (гл. адпаведныя артыкулы), выдавалася падп. газ. *«Большевик»*. У канцы чэрв. 1944 партызаны брыгады «Уперад» захапілі чыг. ст. Юрацішкі, разбурылі пуцявую гаспадарку, спалілі эшалон праціўніка, узялі ў палон вял. колькасць гітлераўцаў. Вызвалены 7.7.1944 воінамі 32-й кав. дывізіі (ген.-маёр І. П. Калюжы) 3-га гвардз. кав. корпуса 1-га Бел. фронту ў ходзе

*Вільнюскай аперацыі 1944* і партызанамі брыгады імя Аляксандра Неўскага (камандзір А. Г. Байкоў). У Ю. брацкая магіла сав. воінаў, партызан і сав. актывістаў, на якой пастаўлены помнік; помнік Вызвалення.

*Т. І. Паваліхіна.*

**ЮРКАЎЦАЎ** Андрэй Сцяпанавіч (н. 13. 7.1908, в. Бёрда Клічаўскага р-на), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Маскоўскую вышэйшую афіцэрскую інж.-мінную школу (1945). На фронце з 1941. Удзельнік баёў пад Масквой, Сталінградам, на Курскай дузе, вызвалення Украіны, Польшчы, разгрому Квантунскай арміі. Палкавы інжынер капітан Ю. вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра на Пн ад Кіева. 26—27. 9.1943 падрыхтаваў сродкі для пераправы роты, паранены кіраваў пераправай артылерыі і боепрыпасаў. Жыў і працаваў у Кіеве.

**ЮХНАВЕЦ** Арсенцій Гаўрылавіч (1916, в. Бераснёўка Докшыцкага р-на — 20.8.1944), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1944. На фронце з 1941, артылерыст. Удзельнік абароны Масквы, Курскай бітвы, вызвалення Беларусі, Польшчы. Пам. камандзіра ўзвода старшына Ю. вызначыўся ў баях пад Брэстам. 27.7.1944 выявіў калону варожых аўтамашын і выклікаў агонь сав. артылерыі на сябе, у выніку знішчана 30 аўтамашын з ваен. грузам і 150 гітлераўцаў. Загінуў у баі пад Варшавай. Яго імем названы вуліца ў г. п. Бягомль і школа ў в. Бераснёўка.



В. П. Юбкін.



Я. А. Юрчанка.



А. Г. Юхнавец.



В. А. Юшкевіч.



Н. Л. Юшкоўскі.



М. А. Ягораў.

Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1937. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1948). З 1926 рабочы. З 1930 у Чырв. Арміі. З чэрв. 1941 на фронце. У партызанах з вер. 1941: камандзір групы, атрада, з сак. 1943 нач. штаба, у ліп. 1943 — ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады «Беларусь»*. З 1944 у ЦК КП(б)Б, сакратар Бярэзінскага РК КП(б)Б, у 1950—65 на адм.-гасп. рабоце ў Мінску.

**ЮРКЕВІЧ** Рыгор Давыдавіч (15.4.1908, г. Пецярбург — 2.10.1980), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Беластоцкай вобл. Чл. КПСС з 1932. У 1919—42 на гасп. і культурна-асветнай рабоце. У партызанах з жн. 1942: радавы, камісар атрада, у ліст. 1943 — ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады імя П. К. Панамарэнкі* Беластоцкай вобл. Пасля вайны на адм.-гасп. рабоце.

**ЮРЧАНКА** Фёдар Кірылавіч (партыз. мянушка Вятроў; н. 13.9.1913, в. Прудок Веліжскага р-на Смаленскай вобл.), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Вілейскай вобл. ў Айч. вайну. Чл. КПСС з 1940. З 1931 на пед. рабоце. У партызанах з ліп. 1941: камандзір атрада, з лют. 1942 2-і сакратар Усвяцкага РК ВКП(б)Б Смаленскай вобл. З вер. 1942 камандзір партыз. атрада, у вер. 1943 — чэрв. 1944 — *партызанскай брыгады «Кастрычнік»*, адначасова ў жн. 1943 — маі 1944 сакратар Пліскага падп. РК КП(б)Б. У 1945—76 на пед. рабоце ў Шаркоўшчынскім р-не.

**ЮРЧАНКА** Ягор Арцёмавіч (3.2.1919, в. Палыкавічы Магілёўскага р-на — 12.1.1981), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1942. Скончыў Барысаўскае ваен.-інж. вучылішча (1941),

**ЮХНАЎСКІ БОЙ 1943,** бой *партызанскай брыгады «Жалязняк»* Мінскай вобл. і ням.-фаш. захопнікаў у в. Юхнаўка Бягомльскага р-на 13.8.1943. Праводзіся сіламі 5-га партыз. атрада (камандзір Р. А. Карніец, камісар А. Г. Калашнікаў) брыгады «Жалязняк» супраць гарнізона ў в. Юхнаўка (каля 400 гітлераўцаў), які ахоўваў дарогу Бягомль — Докшыцы. Напярэдадні бою партыз. разведчыкі праніклі ў в. Юхнаўка, вывучылі размяшчэнне варожых умацаванняў, агнявых кропак, пастоў аховы. На досвітку 13 жн. партызаны на чале з нам. камандзіра брыгады «Жалязняк» А. В. Склярэнка пайшлі на штурм гарнізона і авалодалі Юхнаўкай. Спробы праціўніка выбіць партызан з вёскі поспеху не мелі. У выніку бою партызаны знішчылі каля 80 гітлераўцаў, у т. л. камандзіра і нач. штаба варожага батальёна, узялі ў палон 48 салдат і 3 афіцэраў, захапілі вял. трафеі: 45-міліметровую пушку, 2 мінамёты, 7 кулямётаў, больш 60 вінтовак, 3 аўтаматы, 32 тыс. патронаў, 40 падвод з харчаваннем і амуніцыяй, рацыю, штабныя дакументы і шыфр батальёна. У час бою загінулі 2 партызаны. У 1964 у в. Юхнаўка ў гонар гэтага бою пастаўлена стэла.

*М. Ф. Шумейка.*

**ЮШКЕВІЧ** Васіль Аляксандравіч (28. 2.1897, Вільнюс — 15.3.1951), ген.-палкоўнік (1945). Чл. КПСС з 1919. Скончыў курсы ўдасканалення вышэйшага начсаставу пры Ваен. акадэміі імя Фрунзе (1926 і 1928). З 1915 у арміі, з 1919 у Чырв. Арміі. Удзельнік 1-й сусв. і грамадз. войнаў, нац.-рэв. вайны ў Іспаніі 1936—39. У Айч. вайну з чэрв. 1941 на фронце, камандзір корпуса, арміі. Ваяваў на Зах., Калінінскім, Паўн.-Зах. і 2-м Прыбалт. франтах. Удзельнік абароны Мінска, бітвы пад Масквой, у ходзе *Беларускай аперацыі 1944* камандаваў 3-й ударнай арміяй. З 1944 камандуючы войскамі Адэскай, у 1946—50 Прыволжскай ваен. акруг. Дэп. ВС СССР з 1946. Яго імем названа вуліца ў г. Паставы.

**ЮШКОЎСКІ** Назар Логінавіч (1926, в. Круча Круглянскага р-на — 27.5. 1968), поўны кавалер ордэна Славы. У Чырв. Арміі з 1943. З 1944 на 3-м Бел. і 1-м Укр. франтах. Пам. камандзіра стралк. ўзвода ст. сяржант Ю. вызначыўся ў баях на тэр. Польшчы і Германіі. У сак. 1945 у баях за населены пункт Штрагаў (Верхняя Сілезія) першы падняў узвод у атаку і ўварваўся на яго ўскраіну, у вулічных баях знішчыў некалькі варожых салдат і афіцэраў.



**ЯГОРАЎ** Міхаіл Аляксеевіч (5.5.1923, в. Ярмошынкі Руднянскага р-на Смаленскай вобл.— 20.6.1975), бел. партызан, Герой Сав. Саюза (1946). Чл. КПСС з 1946. Скончыў саўпартшколу. З 1941 камандзір узвода раз-

ведкі, падрыўнік Смаленскага партыз. палка І. Ф. Садчыкава, які дзейнічаў у Аршанскім, Багушэўскім, Ветрынскім, Сенненскім, Ушацкім, Чашніцкім, а таксама ў інш. раёнах трохвугольніка Смаленск — Віцебск — Орша. У маі — жн. 1943 нач. штаба 46-га партыз. атрада 13-й Касцюковіцкай партыз. брыгады. На яго баявым рахунку 5 спушчаных пад адхон эшалонаў ворага. З 1944 у Чырв. Арміі, сяржант, разведчык стралк. палка. Удзельнічаў у фарсіраванні Віслы, Одэра, вызваленні Варшавы, штурме Берліна. У ноч на 1.5.1945 разам з М. В. Кантарыя ўзняў Сцяг Перамогі над рэйхстагам. Пасля вайны інструктар парашутнага спорту, на гасп. рабоце.

**ЯЖКО́Ў** Іван Сцяпанавіч (15.5.1923, с. Вял. Чараватава Дзівееўскага р-на Горкаўскай вобл.— 26.6.1944), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. ВЛКСМ. На фронце з 1941. Пам. камандзіра стралк. ўзвода сяржант Я. вызначыўся ў баі пры фарсіраванні р. Бася каля в. Рудзіца Шклоўскага р-на: у час варожай контратакі агнём з аўтамата знішчыў больш за 20 гітлераўцаў. У рашаючы момант бою сваім целам закрыў амбразуру варожага дзота. Пахаваны ў в. Чэрнеўка Шклоўскага р-на ў брацкай магіле сав. воінаў. Яго імем названа плошча ў г. Кулябакі Горкаўскай вобл.

**Я́ЗВІНСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1942**, аперацыя партыз. атрада «Мсцівец» Сіроцінскай партыз. брыгады (пазней атрад імя Фрунзе *партызанскай брыгады імя У. І. Леніна*) па разгрому ням.-фаш. гарнізона на чыг. ст. Язвіна Сіроцінскага р-на на лініі Полацк—Віцебск 29.7.1942.

Партыз. разведка ўстанавіла, што гарнізон аховы ст. Язвіна налічваў каля 70 гітлераўцаў, з зах. лясістага боку пастаўлены сакрэты і патрулі. За 1 км ад станцыі ў будынку школы размяшчаўся гарнізон з 25 паліцэйскіх. Камандаванне атрада (камандзір М. А. *Сакмаркін*, камісар А. Р. Сямёнаў, нач. штаба А. К. Ізафатаў) вырашыла нанесці ўдар па станцыі з усх. адкрытага боку, адкуль праціўнік менш за ўсё чакаў нападу. Кіраваў аперацыяй камандзір атрада Сакмаркін.

29 ліп. партызаны 3-га і 4-га ўзводаў атрада пад прыкрыццём воінскага эшалона, што праходзіў, наблізіліся да чыг. насыпу супраць вакзала ст. Язвіна. Калі эшалон адышоў, адкрылі агонь па будынку станцыі, закідалі гранатамі інтэрнат аховы і штурмам захапілі вакзал. Байцы 1-га ўзвода абстралялі адыходзячы ад станцыі эшалон, які неўзабаве падарваўся на партыз. міне. У выніку ўзрыву разбіты цягнік і 8 вагонаў, знішчана шмат гітлераўцаў. Паліцэйскія, якія знаходзіліся непадалёку ад станцыі, спрабавалі аказаць дапамогу ахове станцыі, але былі адбіты партыз. засадай. На дапамогу Язвінскаму гарнізону з боку ст. Сіроціна было паслана падмацаванне на бронедрызіне, якая не змагла падысці да станцыі, таму што былі ўзарваны пуці. Партызаны разбурылі ўсю станцыйную гаспадарку, разбілі апаратуру, знішчылі каля 100 м чыг. пуці, пашкодзілі 300 м тэлефоннай сувязі, забілі больш за 50 гітлераўцаў, захапілі 23 вінтоўкі. У выніку аперацыі рух па гэтай дарозе быў спынены на 2 сутак. *М. У. Філімоненкаў.*

**ЯЗУ́БЧЫК** Аляксей Цітавіч (н. 25.8.1909, в. Лядцо Пухавіцкага р-на), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1950. З 1936 працаваў на чыгунцы. У партызанах з жн. 1941, камандзір узвода на Бранщчыне. З сак. 1942 на Беларусі, з мая камісар атрада, у жн. 1942 — ліп. 1943 — *партызанскай брыгады «Дзядзькі Колі»*, у жн. 1943 — чэрв. 1944 камандзір атрада імя Сталіна. У 1944—69 на адм.-гасп. і сав. рабоце.

**ЯЗЫКО́ВІЧ** Фёдар Міхайлавіч (18.2.1903, в. Старое Заліцвінне Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл.— 7.4.1943), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Палескай вобл. Чл. КПСС з 1931. Скончыў Вышэйшую камуніст. с.-г. школу Беларусі імя Леніна (1936). З 1923 на сав., прафс., культурна-асветнай і пед. рабоце на Магілёўшчыне і Міншчыне. З 1938 інструктар ЦК, з 1939 заг. аддзела, з 1941 2-і сакратар Палескага абкома КП(б)Б. З жн. 1941 у Чырв. Арміі на Цэнтр., Пауд.-Зах., Бранскім франтах: камісар кав. групы, дывізіі. З лют. 1943 упаўнаважаны ЦК КП(б)Б па Палескай вобл., з 9.2 да 7.4.1943 1-ы сакратар *Палескага падпольнага абкома КП(б)Б*, камандзір *Палескага партызанскага злучэння*. Загінуў у баі. Яго імем названы вуліцы ў Мазыры, Калінкавічах, г. п. Акцябрскі, Мазырская СШ № 5. На месцы яго гібелі (паміж чыг. ст. Брынёва і Старушкі на лініі Калінкавічы—Лунінец) пастаўлены абеліск, на будынку чыг. ст. Старушкі ўстаноўлена мемар. дошка.

**«Я́КАБ»** («Jakob»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў супраць партызан і мясцовага насельніцтва ў Дзяржынскім і Уздзенскім р-нах у студз. 1943. Праводзілася падраздзяленнямі 13-га паліцэйскага палка, асобым батальёнам СС Дырлевангера, эйнзатцгрупай паліцыі бяспекі і СД генеральнай акругі «Беларусь». У раёне аперацыі гітлераўцы поўнасцю спалілі вёскі *Глухое Перхурава, Літавец, Любажанка, Рудкова*, расстралялі 372 мясцовых жыхароў. На баявое сутыкненне з партызанамі карнікі не пайшлі.

**ЯКАВЕ́НКА** Уладзімір Кірылавіч (н. 12.4.1919, в. Паромӑука Валадарска-Вальінскага р-на Жытомірскай вобл.), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай і Брэсцкай абл. Чл. КПСС з 1946. Скончыў Вышэйшую гандлёвую школу Міністэрства гандлю СССР (1951). У 1939—41 у Чырв. Арміі. Удзельнік Бабруйскага камуніст. падполля. У партызанах з ліст. 1941: з крас. 1942 камандзір узвода, камісар, з студз. 1943 камандзір атрада, у вер. 1943 — ліп. 1944 камандзір *партызанскай брыгады 99-й імя Дз. Ц. Гуляева*. З 1944 на гасп. рабоце. З 1959 старшыня Гомельскага гарвыканкома, з 1965 старшыня праўлення Белспажыўсаюза, з 1970 нам. старшыні праўлення Цэнтрасаюза



І. С. Яжкоў. Ф. М. Языковіч.

СССР. Канд. у чл. ЦК КПБ у 1960—61, чл. Рэвізійнай камісіі КПБ у 1961—66, чл. ЦК КПБ у 1966—71. Дэп. ВС БССР у 1963—71. Аўтар успамінаў «На акупіраванай зямлі» (2 выд., 1969), «Партызанскае міжрэчча» (1976), «Партызанкі» (1980), «Партызанскія арляняты» і «Партызанскі камбрыг» (1984).

**Я́КАЎЛЕЎ** Канстанцін Міхайлавіч (30.9.1905, с. Антоньеўка Петрапаўлаўскага р-на Алтайскага краю — 15.9.1987), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1927. Скончыў Ваен.-паліт. акадэмію імя Леніна (1938). З 1919 у атрадах ЧОН, на камсам. рабоце. З 1927 у Чырв. Арміі. З вер. 1941 кіраўнік групы Бабруйскага камуніст. падполля. У крас.— вер. 1942 камісар партыз. атрада 208-га (гл. *Партызанскі полк 208-ы імя І. В. Сталіна*), адначасова камісар *Клічаўскага аператыўнага цэнтра*. Да 1958 у Сав. Арміі.

**Я́КАЎЛЕЎ** Фама Паўлавіч (17.10.1900, в. Града Віцебскага р-на — 18.11.1971), ген.-лейтэнант (1944). Чл. КПСС з 1920. Скончыў Ваен.-паліт. акадэмію імя Леніна (1933). Удзельнік грамадз. вайны. У Чырв. Арміі з 1920. У Айч. вайну з 1941 чл. ваен. савета Далёкаўсх. фронту, у студз.— сак. 1943 на Волхаўскім фронце. Да 1947 у Сав. Арміі.

**ЯКІМЕ́НКА** Васіль Міронавіч (1914, в. Рэкта Горацкага р-на — 7.11.1965), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1939. З 1932 працаваў на чыгунцы ў Крычаве, у 1941—42 на будаўніцтве ў Маскве і Ішыме. У партызанах з чэрв. 1942: камандзір аддзялення, узвода, з жн. 1943 камісар атрада, у кастр. 1943 —

ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады 121-й імя А. Ф. Брагіна.* З 1944 у органах юстыцыі, на парт. і адм.-гасп. рабоце.

**ЯКУБОЎСКІ** Іван Ігнатавіч (7.1.1912, в. Зайцава Горацкага р-на — 30.11.1976), двойчы Герой Сав. Саюза (студз., вер. 1944), Маршал Сав. Саюза (1967), Герой ЧССР (1970). Чл. КПСС з 1937. Скончыў Аб'яднаную бел. ваен. школу імя ЦВК БССР (1934), Ваен. акадэмію Генштаба (1948). У Чырв. Арміі з 1932. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. У Айч. вайну з 1941 на Зах., Паўд., Паўд.-Зах., Сталінградскім, Данскім, Бранскім, Цэнтр., Варонежскім і 1-м Укр. франтах: камандзір танк. батальёна, палка, нам. камандзіра і камандзір танк. брыгады, нам. камандзіра танк. корпуса. Удзельнік абарончых баёў пад Мінскам, Магілёвам, Сталінградскай і Курскай бітваў, вызвалення Украіны, Польшчы, Львоўска-Сандамірскай, Вісла-Одэрскай, Ніжне- і Верхнесілезскіх, Берлінскай і Пражскай аперацый. Вызначыўся пры фарсіраванні Днядра і Віслы, вызваленні Кіева і Фастава, захопе сандамірскага плацдарма. Пасля вайны на камандных пасадах у Сав. Арміі. З 1957 1-ы нам. і галоўнакамандуючы Групай сав. войск у Германіі; з 1967 1-ы нам. міністра абароны СССР, з ліп. адначасова Галоўнакамандуючы Аб'яднанымі Узбр. Сіламі дзяржаў — удзельніц Варшаўскага Дагавора. Чл. ЦК КПСС з 1961. Дэп. ВС СССР з 1962. Ганаровы грамадзянін г. Жытомір, Калач, Аполе (ПНР). Бюст Я. ўстаноўлены ў г. Горкі Магілёўскай вобл. На будынку Аршанскага пед. вучылішча, дзе вучыўся Я., мемар. дошка. Яго імем названы Кіеўскае вышэйшае танк. інж. вучылішча, вуліцы ў Асіповічах, у г. п. Бялынічы, Магілёве, Мінску, Горках — вуліца, завулак, плошча і сквер.

**ЯЛУГІН** Павел Уладзіміравіч (н. 21.9.1910, в. Янова Лепельскага р-на), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1943. У Айч. вайну з 1941 абараняў Севастопаль, ваяваў на Сталінградскім, Паўд.-Зах., 3-м Укр. франтах. Камандзір стралк. батальёна капітан Я. вызначыўся пры фарсіраванні Днепра каля Днепрапятроўска. 40 байцоў батальёна на чале з ім 24.10.1943 у халоднай вадзе 2 гадз вялі бой з ворагам каля правага берага ракі. Падняўшыся ў атаку, пераадолелі 3 рады драцяной загароды, захапілі і расшырылі плацдарм. Да 1969 у Сав. Арміі, падпалкоўнік.

**ЯМІШЧА**, вёска на тэр. Шумілінскага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 5,5 км на ПнУ ад в. Роўнае Казянскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыло 70 чал. У сак. 1943, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 59 жыхароў, вёску (18 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1969 на месцы спаленай вёскі пастаўлена стэла. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.



Ф. П. Якаўлеў. І. І. Якубоўскі. П. У. Ялугін. І. І. Янушкоўскі. І. П. Янчанка. І. А. Яраш.

**ЯМНІЦКІ БОЙ 1944**, бой *партызанскага палка 121-га імя А. М. Касаева, партызанскай брыгады 61-й* Магілёўскай раённай ВАГ і часцей 60-й ням. рэзервовай мотамеханіз. дывізіі, расквартараванай у вёсках Магілёўскага р-на, у т. л. і в. Ямніца, у ноч на 20.6.1944.

Праводзіўся як частка аперацыі, распрацаванай ВАГ пры Магілёўскім падп. абкоме КП(б)Б, па адначасовым разгроме гарнізонаў праціўніка ў вёсках Гуслішча, Галынец 1-ы і Галынец 2-і, ваен. гарадку ў в. Ямніца (усе ў Магілёўскім р-не) з мэтай скаваць 60-ю ням. мотамеханіз. дывізію і не дапусціць перакідкі яе сіл на фланг палкам і атрадам Магілёўскай ВАГ, якія дзейнічалі на ўчастку чыгункі Магілёў — г. п. Копысь.

19.6.1944 з наступленнем цемнаты група партызан прыступіла да перабудовы пераправы цераз р. Лохва для нападу на ваен. гарадок у в. Ямніца. Паводле плана партыз. полк 113-ы павінен быў штурмаваць гарнізон у в. Гуслішча, а 121-ы полк і 61-я брыгада—ваен. гарадок у в. Ямніца, у якім знаходзілася да 3 рот праціўніка і каля 90 танкаў. Гітлераўцам стала вядома, што рыхтуецца напад партызан на в. Гуслішча, і ў гарнізон было тэрмінова паслана падмацаванне. Выходзячы з гэтага камандзір Магілёўскай раённай ВАГ З. П. Гапонаў вечарам 19 чэрв. прыняў рашэнне атакаваць толькі ваен. гарадок у в. Ямніца, блакіраваць сіламі 113-га палка гарнізоны ў вёсках Гуслішча і Галынец. У ноч на 20.6.1944 партызаны 121-га палка і 61-й брыгады пераправіліся цераз Лохву і непрыкметна наблізіліся да в. Ямніца. Ударная група аўтаматчыкаў-партызан падавіла агнявую кропку праціўніка, а асноўныя сілы партызан пераадолелі загароды з дроту і ўварваліся на тэр. ваен. гарадка. Аднак часткі гітлераўцаў удалося прарвацца да танкаў і арганізаваць абарону, адкрыўшы агонь з танк. пушак і кулямётаў. З прычыны стварэння небяспечнага становішча камандзіры партыз. палка 121-га імя Касаева і 61-й брыгады вымушаны былі даць партызанам каманду адысці на зыходныя пазіцыі. У баі, які цягнуўся каля 40 хвілін, забіта больш за 80 і паранена больш як 40 гітлераўцаў.

**ЯНАВА**, вёска на тэр. Гарадоцкага р-на, знішчаная ням.-фаш. акупантамі разам з жыхарамі. Знаходзілася за 4 км на ПнУ ад в. Халамер'е Халамерскага сельсавета. Перад вайной у ёй жыў 41 чал. У ліст. 1942, у час карнай аперацыі, фашысты загубілі 41 жыхара, вёску (29 двароў) спалілі. Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемар. комплексе Хатынь.

**ЯНКОЎСКІ** Аляксандр Аляксеевіч (н. 1.11.1911, г. Орша), Герой Сацыяліст. Працы (1943). Чл. КПСС з 1938. З 1927 працаваў у паравозным дэпо ст. Орша. У Айч. вайну машыніст паравоза, нам. начальніка 3-й калоны паравозаў асобага рэзерву Наркамата шляхоў зносін. Званне Героя прысвоена за заслугі ў забеспячэнні перавозак для фронту і нар. гаспадаркі. Пасля вайны інжынер у Оршы і Краснаярску.

**ЯНКОЎСКІ** Міхаіл Рыгоравіч (20.11.1913, в. Вял. Прусы Капыльскага р-на — 15.10.1977), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Беластоцкай вобл. Чл. КПСС з 1940. З 1930 на пед. рабоце. З 1940 у Чырв. Арміі. У партызанах з снежн. 1941: камісар, з студз. 1943 камандзір атрада, у кастр. 1943 — жн. 1944 камандзір *партызанскай брыгады «У імя Радзімы»*, адначасова чл. Лапскага падп.

РК КП(б)Б. Пасля вайны на пед. рабоце.

**ЯНУШКО́ЎСКІ** Іван Іванавіч (15.5.1915, в. Пыжы Лёзненскага р-на — 18.9.1944), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1943. З 1941 на Зах., Ленінградскім, 2-м Укр. франтах. Камандзір мінамётнага палка маёр Я. вызначыўся ў баях на тэр. Румыніі. 18.9.1944 з групай воінаў трапіў у засаду. У няроўным баі сав. воіны адкінулі ворага, у выніку былі выратаваны штаб і сцяг палка. Знішчыў каля 20 гітлераўцаў. Загінуў у гэтым баі. Урна з прахам Я. пахавана ў Віцебску. Яго імем названа вуліца ў Віцебску.

**Я́НЧАНКА** Ілья Платонавіч (н. 27.7.1913, в. Калмакова, Гарадоцкі р-н), поўны кавалер ордэна Славы. Чл. КПСС з 1943. З 1941 на Зах., Паўд., 1-м, 3-м і 4-м Укр. франтах. Камандзір аддзялення аўтаматчыкаў, сцяганосец палка старшына Я. вызначыўся пры вызваленні Украіны і Польшчы. 16.4.1944 у раёне г. Цярнопаль у разведцы знішчыў 18 гітлераўцаў; увосень 1944 у час варожай контратакі вынес з акружэння сцяг палка; 14.1.1945, адбіваючы напад ням. аўтаматчыкаў на кантрольным пункце палка, вёў агонь па гітлераўцах, звязкай гранат падбіў варожы танк, выратаваў палкавы сцяг.

**Я́РАШ** Іван Апанасавіч (5.12.1897, в. Ужынец Калінкавіцкага р-на — 26.2.1942), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Барысаўскага р-на. Чл. КПСС з 1921. У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. З 1922 на гасп., сав. і прафс. рабоце. З студз. 1940 нам. заг. аддзела Мінскага абкома КП(б)Б, з вер. 1940 1-ы сакратар Барысаўскага РК КП(б)Б. У ліп. 1941 накіраваны ЦК КП(б)Б у тыл ворага. Узначаліў *Барысаўскі падпольны гарком-райком КП(б)Б*, стварыў *Барысаўскае партыйна-патрыятычнае падполле*. Загінуў у баі. Яго імем названы вуліца ў г. Барысаў, Барысаўская СШ № 18; на будынку гаркома КПБ мемар. дошка.

**ЯРМА́К** Мікалай Іванавіч (1914, г. Арцёмаўск — 6.6.1944), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Вілейскай вобл. Чл. КПСС. Да вайны на сав. рабоце. У партызанах з вер. 1942: камісар, з вер. 1943 камандзір атрада, у студз.— чэрв. 1944 камандзір *партызанскай брыгады 4-й Беларускай*, адначасова чл. Дзісенскага падп. РК КП(б)Б. Яго імем названа вуліца ў г. Міёры.

**ЯРМА́К** Уладзімір Іванавіч (15.5.1924, г. Бабруйск — 19.7.1943), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. ВЛКСМ. З кастр. 1942 на Ленінградскім фронце, радавы. 19.7.1943 каля г. п. Сінявіна ў час разведкі боем закрыў сваім целам амбразуру варожага дзота і даў групе разведчыкаў магчымасць выканаць баявое заданне. Яго імем названы прафесійна-тэхн. вучылішча і вуліца ў Ленінградзе, завулак у г. п. Сінявіна; увекавечаны ў мемарыяле Сінявінскія вышыні.

**ЯРМА́Ш** Аляксей Васілевіч (13.5.1905, в. Стpокты Ушацкага р-на — 30.3.1959), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. Чл. КПСС з 1929. З 1927 у Чырв. Арміі. З жн. 1941 на фронце. У партызанах з вер. 1942: камандзір узвода, пам. нач. штаба брыгады, з студз. 1943 камандзір атрада, у ліп. 1943 — крас. 1944 камісар, у крас.— чэрв. 1944 камандзір *партызанскай брыгады Лепельскай імя І. В. Сталіна*, адначасова чл. Лепельскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—54 на сав. і парт. рабоце ў Віцебскай вобл.

**ЯРМО́ЛЕНКА** Панцялей Ігнатавіч (7.9.1909, в. Пруды Шклоўскага р-на — 24.10.1984), Герой Сав. Саюза (1943). Чл. КПСС з 1943. Са жн. 1942 на Сталінградскім, Варонежскім, 1-м Укр. франтах. Камандзір гарматы сяржант Я. вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра на Пд ад Кіева: 24.9.1943 агнём з гарматы падтрымліваў пераправу батальёна. У баі на плацдарме байцы пад яго камандаваннем адбілі 5 варожых контратак, знішчылі 2 станковыя кулямёты, бронемашыну, больш за 60 гітлераўцаў. Да 1971 працаваў у сельскай гаспадарцы.

**ЯРО́МЕНКА** Андрэй Іванавіч (14.10.1892, г. п. Маркаўка Варашылаўградскай вобл.— 19.11.1970), Герой Сав. Саюза (1944), Маршал Сав. Саюза (1955), Герой ЧССР (1970). Член КПСС з 1918. У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1935). З ліп. 1941 нам. камандуючага Зах. фронтам, войскі якога абаранялі Барысаў, Віцебск, Полацк, Магілёў, правялі 2 контрудары ў напрамку Сянно, Лепель і Рагачоў, Жлобін. Потым камандуючы Бранскім фронтам, 4-й ударнай арміяй, Паўд.-Усх., Паўд., Калінінскім, 1-м і 2-м Прыбалт., 4-м Укр. франтамі. Войскі пад яго камандаваннем паспяхова дзейнічалі ў Маскоўскай і Сталінградскай бітвах, Таропецка-Холмскай, Растоўскай, Смаленскай, Невельскай, Крымскай, Рыжскай, Мараўска-Астраўскай, Пражскай і інш. аперацыях. З 1958 у Групе генеральных інспектараў Міністэрства абароны СССР. Канд. у чл. ЦК КПСС у 1956—70. Дэп. ВС СССР у 1946—70. Аўтар кніг «На заходнім напрамку» (1959), «Сталінград» (1961). «У пачатку вайны» (1964), «Гады адплаты 1943—1945» (1986).

**ЯРО́МЕНКА** Васіль Рыгоравіч (12.2. 1919, с. Ліхаліты Чарнабаеўскага р-на Чаркаскай вобл.— 13.12.1976), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1944. Скончыў Рэсп. парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1950), БДУ (1960). З 1937 у Чырв. Арміі. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, абароны Магілёва ў 1941. У партызанах з жн. 1941, з вер. камандзір групы, з сак. 1942 атрада, у снеж. 1942 — ліп. 1944 *партызанскай брыгады 300-й імя К. Я. Варашылава.* З 1946 на адм.-гасп., парт. і гасп. рабоце.

**ЯРО́НЬКА** Віктар Іванавіч (н. 10.5.1920, Полацк), Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1944. З 1942 на Бранскім, Бел., 1-м, 2-м і 3-м Бел. франтах. Наводчык гарматы сяржант Я. вызначыўся пры вызваленні Гомельскай вобл. 4.11.1943 у баі каля в. Шарсцін Веткаўскага р-на падбіў 4 танкі; 24—25.6.1944 каля в. Азяраны Рагачоўскага р-на заглушыў агонь 7 кулямётных кропак, падбіў 2 самаходныя гарматы; 30.6.1944 на шашы Магілёў—Мінск падбіў 3 танкі, 6 аўтамашын з варожай пяхотай. Жыве ў Наваполацку.

П. І. Ярмоленка. В. І. Яронька.



**ЯРО́ЦКІ** Сямён Адамавіч (3.2.1903, в. Капланцы Бярэзінскага р-на — 20.3.1968), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Магілёўскай і Брэсцкай абл. Чл КПСС з 1926. З 1924 на культурна-асветнай, адм.-гасп. і парт. рабоце, з 1939 2-і сакратар Жлобінскага, Бярозаўскага райкомаў КП(б)Б. З чэрв. 1941 на Зах. фронце. З восені 1941 адзін з арганізатараў падп. групы ў Бярэзінскім р-не. У маі — чэрв. 1944 камандзір *партызанскага атрада 345-га,* адначасова ў ліст. 1942 — маі 1943 — *партызанскай брыгады 3-й Бярэзінскай,* член Бярэзінскага падп. РК КП(б)Б, у ліп.— жн. 1943 камандзір *Бярэзінскай ваенна-аператыўнай групы,* у снеж. 1943 — чэрв. 1944 сакратар Бярозаўскага падп. РК КП(б)Б. Пасля вайны на парт. рабоце. Яго імем названа вуліца ў г. Бяроза.

**ЯСІНО́ВІЧ** Іван Іосіфавіч (н. 26.2.1904, в. Рагатка Барысаўскага р-на — 1984), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Мінскай вобл. Чл. КПСС з 1932. Скончыў Вышэйшую камуніст. с.-г. школу Беларусі імя Леніна (1937). З 1930 на гасп. рабоце ў Барысаўскім і Смалявіцкім р-нах. З 1938 заг. аддзела, з 1940 сакратар Смалявіцкага РК КП(б)Б. У партызанах са жн. 1941: камандзір

групы, камісар атрада. У кастр. 1942 — ліп. 1944 сакратар Плешчаніцкага падп. РК КП(б)Б, адначасова ў сак.— чэрв. 1944 камісар *партызанскай брыгады імя М. І. Калініна.* У 1944—60 на парт., сав. і гасп. рабоце ў Мінскай вобл. і Мінску.

**ЯЎМЕ́НЕНКА** Іван Максімавіч (22.8.1904, в. Пабедная Горацкага р-на — 27.6.1986), адзін з кіраўнікоў парт.

У. Р. Яўсеенка. А. М. Яфімаў.



падполля і партыз. руху ў Вілейскай вобл. Чл. КПСС з 1929. У партызанах з чэрв. 1943, у жн.— снеж. 1943 камісар *партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава,* у маі — ліп. 1944 камісар *партызанскай брыгады 1-й Антыфашысцкай,* адначасова ў кастр. 1943 — ліп. 1944 сакратар Пастаўскага падп. РК КП(б)Б. У 1944—59 на парт. і гасп. рабоце.

**ЯЎСЕ́ЕНКА** Уладзімір Раманавіч (22.11.1922, в. Рынкоўка Чэрыкаўскага р-на — 31.10.1978), Герой Сав. Саюза (1945). Чл. КПСС з 1946. Скончыў Іркуцкае авіятэхн. вучылішча (1942), Томскі ун-т (1951). На фронце з лют. 1943. Удзельнік вызвалення Украіны, Малдавіі, Венгрыі. Механік-вадзіцель танка ст. сяржант Я. вызначыўся ў жн. 1944 пры вызваленні Румыніі. У баях за г. Бырлад, Факшані, Бузэў экіпаж танка знішчыў 5 самаходных арт. установак, 5 гармат і больш за 400 гітлераўцаў, захапіў 8 мінамётаў, 400 вінтовак і 10 ручных кулямётаў. Танк Я. першы прарваўся да моста цераз р. Сірэт, знішчыў 3 арт. батарэі і ўтрымліваў мост да падыходу падмацавання. Да 1961 на адм. рабоце.

**ЯФІ́МАЎ** Аляксандр Мікалаевіч (н. 6.2.1923, г. п. Канцяміраўка Варонежскай вобл.), двойчы Герой Сав. Саюза (1944, 1945), маршал авіяцыі (1975), канд. ваен. навук (1968). Засл. ваен. лётчык СССР (1970). Чл. КПСС з 1943. Скончыў ваен. авіяц. школу пілотаў (1942), Ваен.-паветр. акадэмію (1951), Ваен. акадэмію Генштаба (1957). З 1942 на Зах., 2-м Бел. франтах. Удзельнік баёў пад Вязьмай, Смаленскам, на Беларусі, у Польшчы, Германіі. Лётчык-штурмавік, камандзір звяна, нам. камандзіра, камандзір эскадрыллі, штурман палка штурмавой авіядывізіі Я. зрабіў 222 баявыя вылеты на разведку і штурмоўку войск, аэрадромаў, пераправу і чыг. эшалонаў праціўніка. Усяго асабіста і ў складзе групы знішчыў 85 самалётаў на аэрадромах і 7 у паветр. баях, шмат інш. тэхнікі і жывой сілы праціўніка. З 1969 1-ы нам. Галоўнакамандуючага ВПС, з 1984 Галоўнакамандуючы ВПС — нам. міністра абароны СССР. Дэп. ВС СССР у 1946—50 і з 1974. Чл. ЦК КПСС з 1986, Дзярж. прэмія СССР. У г. Мілерава Растоўскай вобл. пастаўлены яго бюст.

**ЯФРЭ́МАЎ** Міхаіл Рыгоравіч (11.3.1897, г. Таруса Калужскай вобл.— 19.4.1942), ген.-лейтэнант (1940). Чл. КПСС з 1919. У арміі з 1915. У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен.-паліт. акадэмію (1930), Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1933). На фронце з 1941: камандуючы 21-й арміяй, Цэнтр. фронтам, войскі якіх у ліп.—жн. 1941 абаранялі днепроўскія рубяжы на гомельскім напрамку (гл. *Рагачоўска-Жлобінская аперацыя 1941, Гомеля абарона 1941*). Потым нам. камандуючага Бранскім фронтам, камандуючы 33-й арміяй. Удзельнік Маскоўскай бітвы. Загінуў у баі пад Вязьмай.

**ЯХАНТАЎ** Пётр Валяр'янавіч (24.6.1908, в. Будакова Данілаўскага р-на Яраслаўскай вобл.— 26.7.1972), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл. Чл. КПСС з 1932. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1940). З 1925 у Чырв. Арміі. З чэрв. 1941 нач. штаба дывізіі. З вер. 1941 чл. Барысаўскага парт.-патрыятычнага падполля, у вер. 1942 — крас. 1943 камандзір *Клічаўскага аператыўнага цэнтра,* адначасова з вер. 1942 камандзір 208-га партыз. атрада, з ліст. 1942 — 1-й клічаўскай партыз. брыгады (гл. *Партызанскі полк 208-ы імя І. В. Сталіна*). У крас.— жн. 1943 камандзір ваен.-аператыўнай групы пры Магілёўскім падп. абкоме КП(б)Б (гл. *Магілёўскае партызанскае злучэнне*), у крас.— жн. 1943 чл. Магілёўскага падп. абкома КП(б)Б. У 1943—53 у Сав. Арміі.

## ХРАНАЛОГІЯ ВАЖНЕЙШЫХ ПАДЗЕЙ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ НА БЕЛАРУСІ

### 1941 г.

**22 чэрвеня.** Вераломны напад фашысцкай Германіі на СССР. Пачатак Вялікай Айчыннай вайны.
Пераўтварэнне Заходняй асобай ваеннай акругі са штабам у Мінску ў Заходні фронт.
Указы Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР «Аб ваенным становішчы ў асобных мясцовасцях краіны», «Аб мабілізацыі ваеннаабавязаных 1905—1918 гг. нараджэння па 14 ваенных акругах».
Пастанова ЦК КП(б)Б аб задачах партыйных арганізацый у сувязі з вераломным нападам фашысцкай Германіі на СССР.
**22—29 чэрвеня.** Абарона г. Брэста.
**22 чэрвеня — 9 ліпеня.** Абарончая аперацыя на Беларусі войск Заходняга фронту.
**22 чэрвеня — канец ліпеня.** Абарона Брэсцкай крэпасці.
**22 чэрвеня 1941 — 18 ліпеня 1944.** Акупацыя г. п. Сапоцкін нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**22 чэрвеня 1941 — 20 ліпеня 1944.** Акупацыя г. п. Маларыта нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**22 чэрвеня 1941 — 23 ліпеня 1944.** Акупацыя г. п. Дамачова нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**22 чэрвеня 1941 — 28 ліпеня 1944.** Акупацыя г. Брэст нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**23 чэрвеня.** Дырэктыва ЦК ВКП(б) аб арганізацыі барацьбы з варожымі дыверсантамі і парашутыстамі.
Пастанова ЦК КП(б)Б аб мерах у сувязі з увядзеннем у Беларускай ССР ваеннага становішча і правядзеннем мабілізацыі.
**23 чэрвеня 1941 — 11 ліпеня 1944.** Акупацыя г. п. Воранава нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**23 чэрвеня 1941 — 13 ліпеня 1944.** Акупацыя г. п. Ружаны нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**23 чэрвеня 1941 — 15 ліпеня 1944.** Акупацыя г. Бяроза нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**23 чэрвеня 1941—16 ліпеня 1944.** Акупацыя г. Пружаны нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**23 чэрвеня 1941 — 16 і 24** (занёманская частка) **ліпеня 1944.** Акупацыя г. Гродна нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**23 чэрвеня 1941 — 17 ліпеня 1944.** Акупацыя раённага цэнтра в. Шарашова нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**23 чэрвеня 1941 — 18 ліпеня 1944.** Акупацыя раённага цэнтра в. Жабінка нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**23 чэрвеня 1941 — 20 ліпеня 1944.** Акупацыя г. Кобрын нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**23 чэрвеня 1941 — 22 ліпеня 1944.** Акупацыя г. п. Камянец нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**23 чэрвеня 1941 — 28 ліпеня 1944.** Акупацыя г. Высокае нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**24 чэрвеня.** Пастанова СНК СССР і ЦК ВКП(б) «Аб стварэнні савета па эвакуацыі».
**24 чэрвеня 1941 — 8 ліпеня 1944.** Акупацыя г. п. Гарадзішча нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**24 чэрвеня 1941 — 21 ліпеня 1944.** Акупацыя раённага цэнтра в. Дзівін нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**25 чэрвеня.** Арганізавана Цэнтральная эвакуацыйная камісія пры СНК БССР.
**25—28 чэрвеня.** Абарона г. Мінска.
**25 чэрвеня 1941 — 2 ліпеня 1944.** Акупацыя г. Вілейка нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
Акупацыя г. п. Куранец нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**25 чэрвеня 1941 — 3 ліпеня 1944.** Акупацыя г. п. Радашковічы нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**25 чэрвеня 1941 — 5 ліпеня 1944.** Акупацыя г. Валожын нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
Акупацыя г. Смаргонь нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**25 чэрвеня 1941—6 ліпеня 1944.** Акупацыя раённага цэнтра в. Свір нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**25 чэрвеня 1941 — 9 ліпеня 1944.** Акупацыя г. п. Дзятлава нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**25 чэрвеня 1941 — 13 ліпеня 1944.** Акупацыя г. п. Масты нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
Акупацыя г. п. Шчучын нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**25 чэрвеня 1941 — 16 ліпеня 1944.** Акупацыя раённага цэнтра в. Антопаль нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**25 чэрвеня 1941 — 17 ліпеня 1944.** Акупацыя г. п. Драгічын нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**26 чэрвеня.** Подзвіг экіпажа капітана М. Ф. Гастэлы.
Стварэнне пінскага партызанскага атрада «Камарова» пад камандаваннем В. З. Каржа.
**26 чэрвеня 1941 — 29 чэрвеня 1944.** Акупацыя г. п. Старобін нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**26 чэрвеня 1941 — 2 ліпеня 1944.** Акупацыя г. п. Смалявічы нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**26 чэрвеня 1941 — 4 ліпеня 1944.** Акупацыя г. Клецк нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**26 чэрвеня 1941 — 5 ліпеня 1944.** Акупацыя г. Ляхавічы нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
Акупацыя г. Маладзечна нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**26 чэрвеня 1941 — 7 ліпеня 1944.** Акупацыя г. Ашмяны нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
Акупацыя г. п. Мір нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**26 чэрвеня 1941 — 8 ліпеня 1944.** Акупацыя раённага цэнтра в. Карэлічы нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
Акупацыя г. п. Любча нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**26 чэрвеня 1941 — 10 ліпеня 1944.** Акупацыя г. Слонім нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**26 чэрвеня 1941—11 ліпеня 1944.** Акупацыя г. Косава нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
**27 чэрвеня.** Пастанова СНК СССР і ЦК ВКП(б) «Аб эвакуацыі насельніцтва, прамысловых аб'ектаў і матэрыяльных каштоўнасцей з прыфрантавой паласы».
Пастанова ЦК ЛКСМБ «Аб задачах камсамола Беларусі ў сувязі з ваенным становішчам».
**27 чэрвеня 1941 — 30 чэрвеня 1944.** Акупацыя г. Слуцк нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Акупацыя г. п. Чырвоная Слабада нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**27 чэрвеня 1941 — 1 ліпеня 1944.** Акупацыя раённага цэнтра в. Грэск нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**27 чэрвеня 1941 — 3 ліпеня 1944.** Акупацыя раённага цэнтра в. Астравец нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**27 чэрвеня 1941 — 6 ліпеня 1944.** Акупацыя г. п. Івянец нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Акупацыя г. Браслаў нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**27 чэрвеня 1941 — 8 ліпеня 1944.** Акупацыя г. Баранавічы нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Акупацыя г. п. Відзы нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Акупацыя раённага цэнтра в. Новая Мыш нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**27 чэрвеня 1941 — 9 ліпеня 1944.** Акупацыя г. Ліда нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**27 чэрвеня 1941 — 10 ліпеня 1944.** Акупацыя раённага цэнтра в. Целяханы нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**27 чэрвеня 1941 — 12 ліпеня 1944.** Акупацыя г. п. Жалудок нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**27 чэрвеня 1941 — 14 ліпеня 1944.** Акупацыя г. п. Скідзель нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**27 чэрвеня 1941 — 15 ліпеня 1944.** Акупацыя раённага цэнтра в. Лагішын нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**27 чэрвеня — 15 ліпеня.** Абарона г. Полацк.

**27 чэрвеня 1941 — 16 ліпеня 1944.** Акупацыя г. п. Іванава (Янава) нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**28 чэрвеня.** Захоп г. Мінск нямецка-фашысцкімі акупантамі.

Першы бой партызанскага атрада «Камарова» (В. З. Каржа) з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**28 чэрвеня 1941 — 13 чэрвеня 1942.** Дзейнасць Мікалаевіцкага камсамольска-маладзёжнага падполля (у Смалявіцкім р-не).

**28 чэрвеня 1941 — 27 чэрвеня 1944.** Акупацыя г. п. Глуск нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**28 чэрвеня 1941 — 28 чэрвеня 1944.** Акупацыя г. Старыя Дарогі нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**28 чэрвеня 1941 — 29 чэрвеня 1944.** Акупацыя г. п. Узда нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Акупацыя г. Бабруйск нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**28 чэрвеня 1941 — 30 чэрвеня 1944.** Акупацыя г. п. Любань нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Акупацыя г. п. Плешчаніцы нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**28 чэрвеня 1941 — 2 ліпеня 1944.** Акупацыя г. Стоўбцы нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**28 чэрвеня 1941 — 3 ліпеня 1944.** Акупацыя г. Мінск нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Акупацыя г. п. Мар'іна Горка нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**28 чэрвеня 1941 — 4 ліпеня 1944.** Акупацыя г. Нясвіж нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Акупацыя раённага цэнтра в. Крывічы нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Акупацыя г. п. Заслаўе нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**28 чэрвеня 1941 — 7 ліпеня 1944.** Акупацыя г. Дзяржынск нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**28 чэрвеня 1941 — 14 ліпеня 1944.** Акупацыя г. Ваўкавыск нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**29 чэрвеня.** Дырэктыва СНК СССР і ЦК ВКП(б) партыйным і савецкім арганізацыям прыфрантавых абласцей аб мабілізацыі ўсіх сіл і сродкаў краіны на барацьбу з германскім фашызмам.

**29 чэрвеня 1941 — 1 ліпеня 1944.** Акупацыя г. п. Капыль нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**29 чэрвеня 1941 — 7 ліпеня 1944.** Акупацыя раённага цэнтра в. Юрацішкі нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**29 чэрвеня 1941 — 8 ліпеня 1944.** Акупацыя г. п. Іўе нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**30 чэрвеня.** Пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, СНК СССР і ЦК ВКП(б) «Аб утварэнні Дзяржаўнага Камітэта Абароны».

Дырэктыва ЦК КП(б)Б аб падрыхтоўцы да пераходу на падпольную работу партыйных арганізацый раёнаў, якія знаходзіліся пад пагрозай фашысцкай акупацыі.

**30 чэрвеня 1941 — 26 чэрвеня 1944.** Акупацыя пас. Кіраўск нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**30 чэрвеня 1941—28 чэрвеня 1944.** Акупацыя г. Асіповічы нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**30 чэрвеня 1941 — 1 ліпеня 1944.** Акупацыя г. п. Шаркоўшчына нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**30 чэрвеня 1941 — 4 ліпеня 1944.** Акупацыя г. п. Рудзенск нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**30 чэрвеня 1941 — 7 ліпеня 1944.** Акупацыя г. п. Ганцавічы нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**Чэрвень 1941 — верасень 1942.** Дзейнасць Мірскага камсамольска-маладзёжнага падполля.

**Чэрвень 1941 — снежань 1942.** Дзейнасць Наватухінскага партыйна-камсамольскага падполля (у Дубровенскім р-не).

**Чэрвень 1941 — 3 ліпеня 1944.** Дзейнасць Мінскага партыйнага падполля.

**Чэрвень 1941 — 10 ліпеня 1944.** Акупацыя раённага цэнтра в. Быцень нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**Чэрвень 1941 — 12 ліпеня 1944.** Акупацыя г. п. Васілішкі нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**Чэрвень 1941 — 13 ліпеня 1944.** Акупацыя раённага цэнтра в. Казлоўшчына нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Акупацыя раённага цэнтра в. Радунь нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**Чэрвень 1941 — 15 ліпеня 1944.** Акупацыя раённага цэнтра в. Поразава нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**Чэрвень 1941 — 17 ліпеня 1944.** Акупацыя в. Вялікая Бераставіца Крынкаўскага р-на нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Акупацыя г. Свіслач нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**Чэрвень 1941 — ліпень 1944.** Дзейнасць Блудзенскага камсамольска-маладзёжнага падполля (у Бярозаўскім р-не).

**Чэрвень 1941 — май 1945.** Выданне газеты «Красноармейская правда» — органа Заходняга і (з 1944) 3-га Беларускага франтоў.

**1 ліпеня.** Дырэктыва ЦК КП(б)Б партыйным, савецкім і камсамольскім арганізацыям па разгортванню партызанскай вайны ў тыле ворага.

**1—12 ліпеня.** Фарміраванне ў Магілёве народнага апалчэння.

**1 ліпеня — лістапад 1941; 19 сакавіка 1943 — 1 ліпеня 1944.** Дзейнасць Старобінскага падпольнага РК ЛКСМБ.

**1 ліпеня 1941 — 28 чэрвеня 1944.** Акупацыя г. п. Крупкі нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**1 ліпеня 1941 — 12 ліпеня 1944.** Акупацыя г. п. Зэльва нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**2 ліпеня 1941 — 1 ліпеня 1944.** Акупацыя г. Барысаў нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Акупацыя г. п. Бягомль нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Акупацыя г. Чэрвень нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

